# АНГЛІЙСКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК

(каля 60 000 слоў і словазлучэнняў)

Пад кіраўніцтвам
кандыдата філалагічных навук Т.М. СУШЫ



Мінск
«Вышэйшая школа»
2013

УДК 811.111′374=161.3
ББК 81.2Англ-4
А64

**Аўтары:** Т.М. Суша, А.У. Таболіч, А.К. Шчука, С.А. Ігнатава, П.Дж. Мэё, Н.Г. Брэйво, Л.В. Вікторка, А.М. Шаўлова, Ю.М. Кардубан, А.В. Семянькевіч

**Рэцэнзенты:** Д.Г. Багушэвіч, доктар філалагічных навук, прафесар (МДЛУ); Г.В. Посах, кандыдат філалагічных навук, дацэнт (БДТУ); М.П. Целень, кандыдат філалагічных навук, дацэнт (МДЛУ)



А64 **Англійска-беларускі** слоўнік = English-Belarusian Dictionary / Т.М. Суша [і інш.]. – Мінск : Вышэйшая школа, 2013. – 765 с.
ISBN 978-985-06-2236-5.

Англійска-беларускі слоўнік змяшчае каля 60 000 слоў і ўстойлівых словазлучэнняў англійскай мовы з іх адпаведнікамі на беларускай мове, а таксама шматлікія прыклады іх ужывання. Англійска-беларускі слоўнік такога тыпу і памеру падрыхтаваны ў Беларусі ўпершыню.

Слоўнік адрасуецца выкладчыкам ВНУ, настаўнікам школ, студэнтам, перакладчыкам, а таксама ўсім, хто карыстаецца англійскай і беларускай мовамі.

**УДК 811.111′374=161.3**
**ББК 81.2Англ-4**

**ISBN 978-985-06-2236-5**

# ПРАДМОВА

Англійска-беларускі слоўнік адносіцца да слоўнікаў сярэдняга памеру і ўключае каля 60 000 слоў і ўстойлівых словазлучэнняў англійскай мовы.

Англійская мова з'яўляецца мовай міжнародных зносін. Яе сучасны стан характарызуецца варыянтнасцю, а найбольш распаўсюджанымі з'яўляюцца брытанскі варыянт (British English) і амерыканскі варыянт (American English). Натуральна, што слоўнік сярэдняга памеру, якім з'яўляецца Англійска-беларускі слоўнік, арыентуецца на адзін з найбольш распаўсюджаных варыянтаў – брытанскі варыянт, які выкладаецца ў большасці навучальных устаноў Рэспублікі Беларусь. Гэта тычыцца напісання слоў (арфаграфіі), вымаўлення (транскрыпцыі), семантыкі слоў, фразеалогіі і стылістычных памет. У слоўніку таксама адлюстраваны асаблівасці правапісу і семантыкі шырокаўжывальных слоў амерыканскага варыянта ў сувязі з іх распаўсюджаннем у інтэрнэце, рэкламе, вучэбных дапаможніках (**airplane, alumnus, auto, bookstore, cookie, disk, dormitory, drugstore, inquire, program** і г.д.).

Пры складанні рэестра слоў укладальнікі імкнуліся пазбегнуць устарэлых і рэдка ўжывальных слоў і ўключылі многія новыя словы, напрыклад: **ageism, alphabetism, bio-computer, bio-diversity, bird flu, CD, CD-ROM, DVD, e-mail, ethnic cleansing, euro, macho, website, yuppie** і інш.

У Слоўнік уключаны найбольш ужывальныя словазлучэнні сучаснай англійскай мовы. Ён змяшчае пераважна тыя словазлучэнні, значэнне якіх нельга зразумець праз літаральны пераклад слоў, што ўваходзяць у іх склад, ці калі адпаведнікі-словазлучэнні адрозніваюцца лексіка-граматычнай спалучальнасцю, напрыклад: **adhere to a political party** «быць прыхільнікам якой-н. партыі»; **in advance** «загадзя»; **advanced in years** «пажылы; у гадах»; **an adventurous trip** «поўнае прыгод падарожжа»; **ask smb's advice** «раіцца з кім-н.».

Пры перакладзе англійскіх слоў, устойлівых словазлучэнняў і фразеалагічных адзінак укладальнікі імкнуліся знайсці ім найбольш дакладныя беларускія адпаведнікі. У неабходных выпадках пераклады суправаджаюцца тлумачэннямі, якія падаюцца ў дужках курсівам, што арыентуе чытача на правільны выбар слова для перакладу ў пэўным кантэксце, напрыклад: **affected** [əˈfektɪd] *adj.* паказны, прытворны, ненатуральны (*пра паводзіны, смех і да т.п.*). У сувязі з тым, што англійская і беларуская мовы з'яўляюцца рознаструктурнымі, некаторыя лексічныя адзінкі і канструкцыі не перакладаліся, а тлумачыліся (ужываўся тлумачальны пераклад).

Англійская мова з пункту гледжання стылістычнай дыферэнцыяцыі характарызуецца разнастайнымі пластамі, якія з улікам прапарцыянальнай факусіроўкі павінны быць адлюстраваны ў слоўніку сярэдняга памеру. Неабходна падкрэсліць, што не існуе агульнапрынятай стылістычнай класіфікацыі лексікону англійскай мовы, аб чым яскрава сведчаць паметы ў слоўніках англійскай мовы, якія, безумоўна, адлюстроўваюць той ці іншы падыход да гэтай праблемы.

З мэтай выпрацоўкі метамовы апісання англійскай лексікі ў Англійска-беларускім слоўніку было зроблена супастаўленне памет у тлумачальных слоўніках англійскай і беларускай моў. У сістэмах памет, якія ўжываюцца ў якасці метамовы апісання загалоўных слоў, выяўлены як агульныя рысы, так і некаторыя адрозненні. Напрыклад, у сістэме памет пры апісанні англійскай мовы шырока ўжываюцца паметы *formal, informal, slang, taboo* і інш., якім цяжка знайсці дакладныя адпаведнікі ў сістэме памет беларускай мовы. Гэта сведчыць, на нашу думку, аб неабходнасці выкарыстання сістэмы памет, распрацаванай менавіта для слоў англійскай мовы. Вышэйадзначаны падыход не выключае іншыя падыходы, аб чым сведчыць лексікаграфічная практыка.

Дэталёвая сістэма стылістычных памет у англійскай частцы Слоўніка дазваляе выкарыстоўваць Слоўнік з рознымі мэтамі як у пісьмовай, так і вуснай камунікацыі.

Сучасная беларуская мова таксама характарызуецца значнай варыятыўнасцю, якая не можа быць цалкам паказана ў Англійска-беларускім слоўніку, паколькі асноўная мэта Слоўніка – даць семантычна тоесныя або блізкія адпаведнікі. З магчымых варыянтаў выбіраўся найбольш распаўсюджаны варыянт, які адпавядае сучаснаму стану беларускай мовы і кадыфікаваны слоўнікамі сучаснай беларускай мовы (гл. Лексікаграфічныя крыніцы). У Слоўніку ўлічаны новыя правілы беларускай арфаграфіі і пунктуацыі.

Праца па ўкладанні Англійска-беларускага слоўніка выканана ў Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце. Рукапіс Слоўніка падрыхтаваны калектывам аўтараў:

Т.М. Суша (навуковы кіраўнік аўтарскага калектыву; Прадмова; Аб карыстанні Слоўнікам; літары: A, B (B – birthright), часткова D, E, I; рэдагаванне);

А.У. Таболіч (часткова B (brief – Byzantine), S, T, U, V, W, X, Y, Z; фанетычная транскрыпцыя; часткова рэдагаванне);

А.К. Шчука (E, F, G, J, K, L, M; часткова рэдагаванне);

С.А. Ігнатава (C, часткова D; часткова рэдагаванне);

П.Дж. Мэё (D, I; часткова рэдагаванне);

Л.В. Вікторка (H);

Н.Г. Брэйво (N, O; часткова D, F, G, I);

А.М. Шаўлова (P, Q, R);

Ю.М. Кардубан (часткова: B (biscuit – bridle), I, J, K, L, M);

А.В. Семянькевіч (беларуская частка: словазмяненне, словаўжыванне, арфаграфія, націск, сінанімія).

Значная частка англійскага рэестра і ілюстрацыйных прыкладаў была прачытана і папраўлена доктарам філалогіі П.Дж. Мэё (Вялікабрытанія).

У працы над Слоўнікам прымалі ўдзел Г.С. Пракапчук, А.Г. Літвіноўская. Камп'ютарны набор і тэхнічную падрыхтоўку рукапісу да друку зрабілі В.М. Пятрова, Л.Р. Грыцэнка, Л.А. Піменава, В.Б. Журкоўская, В.К. Шчука, С.А. Андрыяш.

На ўсіх этапах працы калектыў меў падтрымку рэктара МДЛУ Н.П. Баранавай, прарэктара А.М. Гарлатава, дэкана факультэта англійскай мовы Н.А. Капачовай, загадчыка кафедры лексікалогіі англійскай мовы В.А. Зінінай.

Аўтары выказваюць удзячнасць кансультантам: доктару філалагічных навук, прафесару У.В. Макараву; доктару філалагічных навук, прафесару А.Я. Міхневічу; доктару філалагічных навук, прафесару А.В. Зубаву; доктару філалагічных навук, прафесару А.А. Лукашанцу; доктару філалагічных навук, прафесару П.У. Сцяцко; кандыдату філалагічных навук, дацэнту П.В. Васючэнку; кандыдату філалагічных навук, дацэнту І.Л. Капылову; дацэнту Л.А Казыру; Л. Пінкету (ЗША); Дж. Дынглі (Вялікабрытанія).

Аўтары выказваюць падзяку рэцэнзентам рукапісу Слоўніка доктару філалагічных навук, прафесару МДЛУ Д.Г. Багушэвічу, кандыдату філалагічных навук, дацэнту БДТУ Г.В. Посах, кандыдату філалагічных навук, дацэнту МДЛУ М.П. Целень за зробленыя заўвагі і прапановы, якія былі ўлічаны і палепшылі змест Слоўніка.

Словы шчырай падзякі адрасуюцца вядучаму рэдактару Л.Д. Касьянавай, карэктару В.І. Аверкінай, а таксама ўсім супрацоўнікам выдавецтва «Вышэйшая школа», якія прынялі ўдзел у падрыхтоўцы рукапісу Слоўніка да публікацыі.

*Т.М. Суша*

# АБ КАРЫСТАННІ СЛОЎНІКАМ

## Падача матэрыялу

Слоўнік арыентуецца на брытанскі варыянт сучаснай англійскай літаратурнай мовы. Гэта азначае, што за асноўны прызнаецца брытанскі арфаграфічны варыянт. Фанетычная транскрыпцыя загалоўных слоў даецца ў адпаведнасці з брытанскай маўленчай нормай паводле сістэмы IPA (Міжнароднай фанетычнай транскрыпцыі).

Англійскія загалоўныя адзінкі (словы, словазлучэнні, абрэвіятуры) размешчаны ў Слоўніку ў алфавітным парадку. У агульны алфавітны парадак увайшлі таксама формы няправільных дзеясловаў, суплетыўныя формы прыметнікаў, нерэгулярныя формы множнага ліку назоўнікаў, формы займеннікаў.

Амерыканскія арфаграфічныя варыянты даюцца ў алфавітным парадку асобным словам з паметай *AmE* і адсылкай на адпаведны слоўнікавы артыкул брытанскага варыянта.

Брытыцызмы падаюцца ў адным радку з загалоўным словам праз коску, напрыклад:

**baptize**, *BrE*-**ise** [bæpˈtaɪz] *v.* хрысці́ць; дава́ць імя́

Арфаграфічныя варыянты даюцца ў адпаведнасці з алфавітам. Адсылка робіцца да больш частотнага варыянта слова, напрыклад:

**gray** [greɪ] = **grey**

Гэта значыць, што перакладны эквівалент даецца да слова **grey**.

Амонімы (лексічныя і лексіка-граматычныя) даюцца як розныя слоўнікавыя артыкулы, напрыклад:

**bank**[1] [bæŋk] *n.* **1.** банк; **a branch bank** філія́л ба́нка **2.** фонд, агу́льны запа́с; рэзе́рв; **a blood bank** запа́с крыві́ (*для пералівання*); **a data bank** банк да́ных

**bank**[2] [bæŋk] *v.* кла́сці/трыма́ць гро́шы (*у банку*)

**bank**[3] [bæŋk] *n.* **1.** бе́раг (*ракі, канала*) **2.** вал, на́сып; да́мба; круты́ схіл **3.** нано́с, зано́с; сумёты, гу́рбы сне́гу

**bank**[4] [bæŋk] *v.* **1.** нава́львваць, зграба́ць у ку́чы; **bank snow** зграба́ць снег у ку́чы **2.** акружа́ць ва́лам, рабі́ць на́сып **3.** рабі́ць віра́ж (*пра самалёт*)

**bank**[5] [bæŋk] *n.* кампле́кт, набо́р, се́рыя

Парадак падачы лексіка-граматычных амонімаў фармальны: спачатку даецца назоўнік (*n.*), займеннік (*pron.*), пасля прыметнік (*adj.*), дзеяслоў (*v.*), прыслоўе (*adv.*), лічэбнік (*num.*), прыназоўнік (*prep.*), злучнік (*conj.*), выклічнік (*interj.*).

Розная часцінамоўная прыналежнасць слоў, якія перакладаюцца аднолькава, паказваецца ў межах аднаго слоўнікавага артыкула, напрыклад:

**adult** [ˈædʌlt, əˈdʌlt] *n., adj.* даро́слы, ста́лы

Калі словы адрозніваюцца толькі афіксамі, то апошнія падаюцца праз коску, у дужках або слова даецца поўнасцю:

**generalize**, **-ise** [ˈdʒenrəlaɪz] *v.*
**analytic(al)** [ˌænəˈlɪtɪk(l)] *adj.*
**adaptor, adapter** [əˈdæptə] *n.*

## Падача значэнняў

Розныя значэнні слова аддзяляюцца арабскімі лічбамі: **1.** … **2.** … . Блізкія значэнні даюцца праз коску, больш далёкія праз кропку з коскай. Калі прамы і пераносны сэнс у перакладзе супадаюць, даецца памета (*таксама перан.*), напрыклад:

**apex** [ˈeɪpeks] *n.* вяршы́ня; пік (*таксама перан.*)

Пры наяўнасці некалькіх сінанімічных перакладных эквівалентаў спачатку даецца больш агульнае значэнне, затым вузкае (тэрміналагічнае або спецыяльнае); больш ужывальнае, затым менш ужывальнае.

Тлумачальныя словы звычайна даюцца ў дужках пасля перакладу (*таксама перан.*; *у звароце*; *у розных знач.*; *і г.д.*), аднак пры семантызацыі службовых класаў слоў гэты парадак можа мадыфікавацца.

Калі слова ўжываецца ў множным ліку, даюцца паметы: *pl., звыч. pl., таксама pl.*

Калі слова ўжываецца з артыклем **the**, то паказваецца так:

**bible** [ˈbaɪbl] *n.* **the Bible** Бі́блія

Калі слова ў адным са сваіх значэнняў павінна пісацца з вялікай літары, то паказваецца так: **ascension** [əˈsenʃn] *n.* **1. the Ascension** *eccl.* Узнясе́нне, Ушэ́сце **2.** *fml* узыхо́джанне

Пераходныя і непераходныя значэнні дзеяслова падаюцца звычайна праз кропку з коскай.

Дзеясловы звычайна даюцца ў незакончаным трыванні. У некаторых выпадках, асабліва ў словазлучэннях, даецца закончанае трыванне, калі гэта абумоўлена семантыкай дзеяслова або словазлучэння.

Зваротныя формы дзеяслова ў беларускай мове даюцца ў поўнай форме.

Кіраванне англійскага дзеяслова паказваецца ў дужках:

**aspire** [əˈspaɪə] *v.* **(to, after)**
**depend** [dɪˈpend] *v.* **(on/ upon)**

Часціца «to» у словазлучэннях перад інфінітывам, калі гэта першае слова, апускаецца.

## Умоўныя знакі

Арабскімі лічбамі **1, 2, 3** … абазначаюцца розныя значэнні слова, а таксама верхнія індэксы пры падачы амонімаў.

() У круглых дужках, калі гэта неабходна, даюцца: 1) формы, якія ўтвараюцца не па правілах (формы няправільных дзеясловаў, ступені па-

раўнання прыметнікаў і прыслоўяў, множны лік назоўнікаў); 2) кіраванне; 3) тлумачальныя словы; 4) факультатыўныя словы; 5) факультатыўныя гукі, напрыклад: [s(j)u:t)].

**,** Коскамі аддзяляюцца сінанімічныя або блізкія па значэнні словы.

**;** Кропка з коскай аддзяляе больш далёкія па значэнні словы, а таксама словазлучэнні і сказы з перакладамі на беларускую мову.

**:** Двукроп'е пасля загаловачнага слова абазначае, што гэта слова ўжываецца звычайна ў складзе словазлучэння і асобна не перакладаецца.

*Курсівам* падаюцца словы, якія ўдакладняюць значэнне загалоўнага слова, а таксама стылістычныя і іншыя паметы.

→ Стрэлка азначае адсылку да іншага слова або іншай формы гэтага слова, да якой даецца перакладны эквівалент.

= Знак ужываецца, каб паказаць семантычна тоесныя адзінкі.

/ Знак ужываецца, каб паказаць магчымыя варыянты ў словазлучэннях мовы-крыніцы (англійскай) і магчымыя варыянты ў перакладзе словазлучэнняў.

♦ Знак ставіцца перад фразеалагічнымі словазлучэннямі, а таксама прымаўкамі і прыказкамі.

≅ Знак ужываецца звычайна пры перадачы семантыкі словазлучэнняў і фразеалагічных адзінак, якія не з'яўляюцца эквівалентамі, а могуць лічыцца аналагамі.

£ pound sterling – фунт стэрлінгаў.

$ dollar – долар.

& and – і.

# УМОЎНЫЯ ПАМЕТЫ І СКАРАЧЭННІ

## Англійскія – English

| | |
|---|---|
| *adj.* | adjective |
| *adv.* | adverb |
| *aeron.* | aeronautics |
| *agr.* | agriculture |
| *AmE* | American English |
| *anat.* | anatomy |
| *archaic* | archaic |
| *archit.* | architecture |
| *astrol.* | astrology |
| *astron.* | astronomy |
| *AustralE* | Australian English |
| *bibl.* | biblical |
| *biochem.* | biochemistry |
| *biol.* | biology |
| *bot.* | botany |
| *BrE* | British English |
| *chem.* | chemistry |
| *chess* | chess |
| *comm.* | commerce |
| *comput.* | computing |
| *conj.* | conjunction |
| *dated* | dated/old-fashioned |
| *derog.* | derogatory |
| *dipl.* | diplomacy |
| *eccl.* | ecclesiastical |
| *ecol.* | ecology |
| *econ.* | economics |
| *electr.* | electricity |
| *entomol.* | entomology |
| *finance* | finance |
| *fml* | formal |
| *geog.* | geography |
| *geol.* | geology |
| *hist.* | history, historical |
| *hum.* | humourous |
| *inf.* | infinitive |
| *infml* | informal |
| *interj.* | interjection |
| *iron.* | ironical |
| *joc.* | jocular |
| *law* | law |
| *ling.* | linguistics |
| *lit.* | literary |
| *log.* | logic |
| *math.* | mathematics |
| *mech.* | mechanics |
| *med.* | medicine |
| *meteorol.* | meteorology |
| *mil.* | military |
| *min.* | mineralogy |
| *mus.* | music |
| *myth.* | mythology |
| *n.* | noun |
| *naut.* | nautical |
| *non-standard* | non-standard |
| *num.* | numeral |
| *offensive* | offensive |
| *passive* | passive voice |
| *past* | past tense |
| *pharm.* | pharmacology |
| *philos.* | philosophy |
| *phr. v.* | phrasal verb |
| *phys.* | physics |
| *physiol.* | physiology |
| *pl.* | plural |
| *poet.* | poetical |
| *p.p.* | past participle |
| *prep.* | preposition |

| | |
|---|---|
| *pres. p.* | present participle |
| *pron.* | pronoun |
| *psychol.* | psychology |
| *relig.* | religion |
| *ScotE* | Scottish English |
| *sing.* | singular |
| *slang* | slang |
| *smb.* | somebody |
| *smth.* | something |
| *sport* | sport |
| *taboo* | taboo |
| *tech.* | technical |
| *textile* | textile |
| *theatre* | theatre |
| *v.* | verb |
| *zool.* | zoology |

## Беларускія – Belarusian

| | |
|---|---|
| *адз. л.* | адзіночны лік |
| *адм. ск.* | адмоўны сказ |
| *асоба* | асоба дзеяслова |
| *бібл.* | біблейскае |
| *г.* | горад, год |
| *гіст.* | гістарычнае |
| *гл.* | глядзі |
| *буд. ч.* | будучы час |
| *він. скл.* | вінавальны склон |
| *выш. (най-выш.) ст.* | вышэйшая (найвышэй-шая) ступень |
| *дав. скл.* | давальны склон |
| *дзеясл.* | дзеяслоў |
| *ж.* | жаночае імя |
| *ж. род* | жаночы род |
| *звыч.* | звычайна |
| *знач.* | значэнне |
| *і г.д.* | і гэтак далей |
| *і да т.п.* | і да таго падобнае |
| *італ.* | італьянскае |
| *лацін.* | лацінскае |
| *м.* | мужчынскае імя |
| *м. род* | мужчынскі род |
| *міф.* | міфалагічнае імя |
| *мн. л.* | множны лік |
| *-н.* | -небудзь |
| *напр.* | напрыклад |
| *перан.* | пераноснае зна-чэнне |
| *прош. ч.* | прошлы час |
| *пыт. ск.* | пытальны сказ |
| *р.* | рака |
| *родн. скл.* | родны склон |
| *скар.* | скарачэнне |
| *ст.* | стагоддзе |
| *стст.* | стагоддзі |
| *сцвярдж. ск.* | сцвярджальны сказ |
| *тв. скл.* | творны склон |
| *франц.* | французскае |

# ЛЕКСІКАГРАФІЧНЫЯ КРЫНІЦЫ

1. Англійска-беларуска-рускі слоўнік / Т.М. Суша [і інш.] ; пад агул. рэд. Т.М. Сушы, А.К. Шчукі, П.Дж. Мэё. – 2-е выд., папр. і дапрац. – Мінск : БелЭн., 2004.

2. *Арашонкава, Г.У.* Слоўнік цяжкасцей беларускай мовы : Правапіс. Вымаўленне. Націск. Словазмяненне. Словаўжыванне / аўт.-склад. Г.У. Арашонкава, В.П. Лемцюгова. – Мінск : Радыёла-плюс, 2005.

3. Беларуская граматыка : у 2 ч., ч. 1 : Фаналогія. Арфаэпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск / АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа ; пад рэд. М.В. Бірылы, П.П. Шубы. – Мінск : Навука і тэхніка, 1985.

4. Беларускі арфаграфічны слоўнік / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы ; уклад. Л.П. Кунцэвіч, І.У. Кандраценя; пад рэд. А.А. Лукашанца. – Мінск : Беларус. навука, 2009.

5. *Бенсон, М.* Комбинаторный словарь английского языка / М. Бенсон, Э. Бенсон. – М. : Рус. яз., 1990.

6. *Булыка, А.М.* Слоўнік іншамоўных слоў : у 2 т. / А.М. Булыка. – Мінск : БелЭн, 1999.

7. *Карповіч, Л.Т.* Англа-беларускі слоўнік грамадска-палітычнай лексікі. = English-Byelorussian dictionary of social and political vocabulary / Л.Т. Карповіч, Л.А. Казыра. – Мінск : Навука і тэхніка, 1993.

8. *Клышка, М.К.* Слоўнік сінонімаў і блізказначных слоў / М.К. Клышка ; пад рэд. Л.А. Антанюк. – 2-е выд. – Мінск : Вышэйшая школа, 1993.

9. *Кунин, А.В.* Англо-русский фразеологический словарь / А.В. Кунин. – М. : Рус. яз., 1984.

10. *Лепешаў, І.Я.* Фразеалагічны слоўнік беларускай мовы : у 2 т. / І.Я. Лепешаў. – Мінск : БелЭн., 1993.

11. Новый Большой англо-русский словарь : в 3 т. / Ю.Д. Апресян [и др.]; под общ. рук. Ю.Д. Апресяна. – 6-е изд., стереотип. – М. : Рус. яз., 2001.

12. *Павловец, Д.Д.* Русско-белорусский словарь спортивных терминов / Д.Д. Павловец, Д.Д. Старченко. – Минск : Полымя, 1995.

13. *Пашкевіч, В.* Ангельска-беларускі слоўнік / В. Пашкевіч ; пад рэд. С. Шупы. – Мінск : Зьміцер Колас, 2006.

14. Руска-беларускі слоўнік : у 2 т. / рэд. К.К. Атраховіч (Кандрат Крапіва). – 3-е выд., выпр., дап. – Мінск : БелСЭ, 1991.

15. *Санько, З.* Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем. – Мінск : Навука і тэхніка, 1991.

16. Слоўнік беларускай мовы / пад рэд. М.В. Бірылы. – Мінск : БелСЭ, 1987.

17. Слоўнік беларускай мовы / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т мовы і літ. імя Я. Коласа і Я. Купалы ; уклад. Н.П. Еўсіевіч [і інш.] ; навук. рэд. А.А. Лукашанец, В.П. Русак. – Мінск : Беларус. навука, 2012.

18. Тлумачальны слоўнік беларускай мовы : у 5 т. / пад агул. рэд. К.К. Атраховіча (Кандрата Крапівы). – Мінск : БелСЭ, 1977–1984.

19. Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы / пад рэд. М.Р. Судніка, М.Н. Крыўко. – Мінск : БелСЭ, 1996.

20. *Уласевіч, В.І.* Слоўнік новых слоў беларускай мовы / В.І. Уласевіч, Н.М. Даўгулевіч. – Мінск : ТетраСистемс, 2009.

21. American Heritage Dictionary of the English Language. – Boston, N.Y. : Houghton Mifflin Company, 2000.

22. Cambridge English Pronouncing Dictionary / D. Jones ; ed. by P. Roach, J. Hartman, J. Setter. – 17$^{th}$ ed. – Cambridge : CUP, 2006.

23. Collins Cobuild English Dictionary. – L. : Harper Collins Publishers, 1995.

24. Concise Oxford Dictionary. – Oxford : OUP, 2004.

25. *Hajczuk, R.* English-Polish-Russian-Belarusian Dictionary on Informatics and Computer Technology / R. Hajczuk, A. Zubow. – Bialystok, 2003.

26. Longman Dictionary of Contemporary English. – Harlow : Longman, 1995.

27. Oxford Advanced Learner's Dictionary of Current English / A.S. Hornby. – Oxford : OUP, 2005.

28. Oxford Dictionary of New Words / ed. E.Knowles, J.Elliott. – Oxford, N.Y. : OUP, 1997.

29. Oxford Russian Dictionary. English-Russian / ed. by Paul Falla; Russian-English / ed. by Marcus Wheeler and Boris Unbegaun. – Oxford–N.Y. : OUP, 2000.

30. *Wells, J.C.* Longman Pronunciation Dictionary / J.C. Wells. – Harlow : Longman, 2000.

## Англійскі алфавіт

| | | |
|---|---|---|
| **A a** | **J j** | **S s** |
| **B b** | **K k** | **T t** |
| **C c** | **L l** | **U u** |
| **D d** | **M m** | **V v** |
| **E e** | **N n** | **W w** |
| **F f** | **O o** | **X x** |
| **G g** | **P p** | **Y y** |
| **H h** | **Q q** | **Z z** |
| **I i** | **R r** | |

## Транскрыпцыя

| **зычныя гукі** | | | | **галосныя гукі** | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| [b] | **b**ill | [ŋ] | ri**ng** | [æ] | c**a**t | [ə] | **a**gain |
| [d] | **d**og | [p] | **p**it | [ɑː] | c**ar**d | [əʊ] | c**oa**t |
| [ð] | **th**at | [r] | **r**ich | [ɒ] | n**o**d | [ɜː] | t**ur**n |
| [dʒ] | **j**et | [s] | **s**un | [aɪ] | s**i**te | [ɪ] | p**i**g |
| [f ] | **f**act | [ʃ] | **sh**ip | [aʊ] | c**ow** | [iː] | m**ee**t |
| [g] | **g**irl | [t] | **t**en | [ɔː] | c**or**n | [ɪə] | b**eer** |
| [h] | **h**ut | [tʃ] | **ch**ess | [ɔɪ] | t**oy** | [uː] | c**oo**l |
| [j] | **y**es | [θ] | **th**ick | [e] | p**e**n | [ʊ] | p**u**t |
| [k] | **k**ilt | [v] | **v**et | [eə] | p**air** | [ʊə] | s**ure** |
| [l] | **l**amp | [w] | **w**ell | [eɪ] | t**a**ke | [ʌ] | b**u**t |
| [m] | **m**et | [z] | **z**ero | | | | |
| [n] | **n**eck | [ʒ] | plea**s**ure | | | | |

Сімвалы [i] і [u] ужываюцца ў фінальнай пазіцыі ненаціскнога склада, напрыклад: [ˈsɪti], [ˌɪnfluˈenzə].

# Aa

**A, a** [eɪ] *n. 1-я літара англійскага алфавіта* ♦ **from A to Z** ад а да я; **know smth. from A to Z** ≅ ве́даць што-не́будзь як свае́ пяць па́льцаў

**A¹** [eɪ] *n. mus.* но́та «ля»

**A²** [eɪ] *n.* «выда́тна» (*самая высокая акадэміч-ная адзнака ў Англіі*); *He got an A in chemistry.* Ён атрымаў «выдатна» па хіміі.

**a** [eɪ] *неазначальны артыкль* **1.** *звыч. не пера-кладаецца*; *She is a student.* Яна студэнтка. **2.** адзі́н, адна́, адно́; **a friend of mine** адзі́н мой ся́бра **3.** не́йкі, не́хта; *A Mr. Smith rang.* Тэлефанаваў нейкі містар Сміт. **4. :** *She gave out five dollars a person.* Яна раздала па пяць долараў кожнаму. **5. : twice a week** два разы́ на ты́дзень

**AA** [ˌeɪˈeɪ] **1.** (*скар. ад* **Alcoholics Anonymous**) «Ананíмныя алкаго́лікі» (*грамадская аргані-зацыя па барацьбе з алкагалізмам*) **2.** (*скар. ад* **Automobile Association**) асацыя́цыя аўта-мабілі́стаў

**aback** [əˈbæk] *adv.* **: taken aback** аслупяне́лы, шакі́раваны, ве́льмі здзі́ўлены

**abacus** [ˈæbəkəs] *n.* лічы́льнікі (*канторскія*)

**abandon** [əˈbændən] *v.* **1.** кіда́ць; пакіда́ць (*без нагляду*) **2.** адмаўля́цца; **abandon a project/a plan** адмаўля́цца ца́лкам ад прае́кта/пла́на

**abandoned** [əˈbændənd] *adj. fml* кі́нуты; пакі́-нуты; **abandoned houses** (па)кі́нутыя дамы́

**abase** [əˈbeɪs] *v.* прыніжа́ць; зневажа́ць

**abasement** [əˈbeɪsmənt] *n.* прыніжэ́нне; знява́га

**abashed** [əˈbæʃt] *adj.* збянтэ́жаны, разгу́блены; засаро́млены

**abate** [əˈbeɪt] *v. fml* **1.** аслабля́ць, памянша́ць **2.** слабе́ць, памянша́цца, сціха́ць (*пра вецер, шторм, гукі і да т.п.*) **3.** зніжа́ць (*цану, пада-так*)

**abatement** [əˈbeɪtmənt] *n. fml* памяншэ́нне; спад; зніжэ́нне

**abbess** [ˈæbes] *n.* абаты́са, настая́цельніца (*жа-ночага кляштара*)

**abbey** [ˈæbi] *n.* аба́цтва; **Westminster Abbey** Вестмі́нстэрскае аба́цтва

**abbot** [ˈæbət] *n.* аба́т, настая́цель (*мужчынска-га кляштара*)

**abbreviate** [əˈbriːvieɪt] *v.* скарача́ць (*слова, апо-весць і да т.п.*); **an abbreviated text** скаро́-чаны тэкст

**abbreviation** [əˌbriːviˈeɪʃn] *n.* **1.** абрэвія́цыя; скарачэ́нне **2.** *ling.* абрэвія́цыя; абрэвіяту́ра, скарачэ́нне

**ABC** [ˌeɪbiːˈsiː] *n.* **1.** алфаві́т; а́збука **2.** асно́вы (*чаго-н.*); **the ABC of physics** асно́вы фі́зікі ♦ **as easy as ABC** ве́льмі про́ста, элемента́рна

**abdomen** [ˈæbdəmən] *n.* **1.** *anat.* жыво́т; бруш-на́я по́ласць **2.** *zool.* абдо́мен, бру́шка (*у нася-комых*)

**abduct** [æbˈdʌkt] *v.* кра́сці; выкрада́ць (*людзей, дзяцей*)

**abduction** [æbˈdʌkʃn] *n.* выкрада́нне

**abhor** [əbˈhɔː] *v. fml* адчува́ць агі́ду, гі́дзіцца; ненаві́дзець

**abhorrence** [əbˈhɒrəns] *n. fml* агі́да

**abide** [əˈbaɪd] *v.* **1.** трыва́ць, цярпе́ць; *How could you abide such conditions?* Як вы маглі тры-ваць гэтыя ўмовы? **2.** (*past, p.p.* **abode**) *fml* жы́ць, пражыва́ць **3. (by)** прытры́млівацца, трыма́цца (*пра правілы, рашэнні і да т.п.*); **abide by the law/the rules** прытры́млівацца зако́ну/пра́вілаў; **abide by one's promise** выко́нваць свае́ абяца́нне

**abiding** [əˈbaɪdɪŋ] *adj. fml* нязме́нны, ста́лы; **an abiding friendship** мо́цная дру́жба; **abiding faith** цвёрдая ве́ра

**ability** [əˈbɪləti] *n.* **1.** уме́нне; уме́льства **2.** здо́ль-насць; **to the best of one's ability** (выяўля́ць) найле́пшым чы́нам свае́ здо́льнасці; *He has great ability in mathematics.* У яго вялікія здольнасці да матэматыкі.

**abject** [ˈæbdʒekt] *adj. fml* прыні́жаны, гаро́тны, няшча́сны; **live in abject poverty** жыць у га-ле́чы

**ablaut** [ˈæblaʊt] *n. ling.* абля́ут

**able** [ˈeɪbl] *adj.* здо́льны, дзе́йны; **be able** маг-чы́, быць у ста́не (*зрабіць што-н.*)

**able-bodied** [ˌeɪblˈbɒdɪd] *adj.* здаро́вы, мо́цны, ду́жы; працаздо́льны

**ableism** [ˈeɪblɪzəm] *n.* дыскрымінáцыя інвалíдаў

**ably** [ˈeɪbli] *adv.* умéла, па-майстэ́рску

**abnormal** [æbˈnɔːml] *adj.* ненармáльны, незвычáйны, неймавéрны

**abnormality** [ˌæbnɔːˈmæləti] *n.* ненармáльнасць, анамáлія

**aboard**[1] [əˈbɔːd] *adv.* на бóрце (*судна, самалёта і да т.п.*); **go aboard** садзíцца на карабéль, самалёт і да т.п.; **take aboard** узя́ць на борт

**aboard**[2] [əˈbɔːd] *prep.* **: aboard a ship/a plane** на бóрце карабля́/самалёта

**abode**[1] [əˈbəʊd] *n.* **1.** *fml* мéсца жыхáрства **2.** жыллё, жытлó; **a person of no fixed abode** асóба без пэ́ўнага мéсца жыхáрства

**abode**[2] [əˈbəʊd] *past, p.p.* → **abide**

**abolish** [əˈbɒlɪʃ] *v.* адмяня́ць, касавáць, знішчáць (*пра законы, традыцыі і да т.п.*)

**abolition** [ˌæbəˈlɪʃn] *n.* адмéна, касавáнне; **the abolition of capital punishment** адмéна смярóтнага пакарáння/смярóтнай кáры

**abolitionist** [ˌæbəˈlɪʃənɪst] *n.* **1.** абаліцыянíст, прыхíльнік адмéны якóга-н. закóна **2.** *hist.* удзéльнік рýху за адмéну рáбства ў ЗША ў XVIII–XIX стст.

**A-bomb** [ˈeɪbɒm] *n.* (*скар. ад* **atomic bomb**) áтамная бóмба

**abominable** [əˈbɒmɪnəbl] *adj.* агíдны, бры́дкі, паскýдны (*пра надвор'е, умовы, ежу і да т.п.*); **abominable weather** дрэ́ннае надвóр'е

**abomination** [əˌbɒmɪˈneɪʃn] *n. fml* агíда

**aboriginal**[1] [ˌæbəˈrɪdʒənl] *n.* **1. Aboriginal** абарыгéн (*пра карэннага жыхара Аўстраліі*) **2.** абарыгéн; аўтахтóн; карэ́нны жыхáр, тузéмец, тýбылец, тутэ́йшы

**aboriginal**[2] [ˌæbəˈrɪdʒənl] *adj.* **1. Aboriginal** якí ты́чыцца карэ́нных жыхарóў Аўстрáліі **2.** абарыгéнны, карэ́нны, тузéмны, тýбыльны, тýбыльскі

**aborigine** [ˌæbəˈrɪdʒəni] *n.* **1.** абарыгéн; аўтахтóн; карэ́нны жыхáр, тузéмец, тýбылец **2. Aborigine** абарыгéн (*пра карэннага жыхара Аўстраліі*)

**abort** [əˈbɔːt] *v.* **1.** дачáсна пазбаўля́цца ад цяжáрнасці **2.** заўчáсна нарадзíць **3.** пацярпéць няўдáчу (*пра план, праект і да т.п.*)

**abortion** [əˈbɔːʃn] *n.* абóрт

**abortive** [əˈbɔːtɪv] *adj. fml* беспаспяхóвы, бясплённы; мáрны, дарэ́мны; **an abortive attempt** мáрная спрóба; **abortive efforts** мáрныя намагáнні

**abound** [əˈbaʊnd] *v.* быць у вялíкай кóлькасці; кішэ́ць; **abound in smth.** быць багáтым на што-н.; *The country abounds in valuable minerals.* Гэтая зямля багатая на карысныя выкапні; *The sea abounds with fish.* Мора кішыць рыбай.

**about**[1] [əˈbaʊt] *adv.* **1.** каля́, прыблíзна; **about six o'clock** каля́ шасцí гадзíн **2. (all) about** усюды, скрозь; *Don't leave your toys lying about.* Не раскідвай усюды цацкі.

**about**[2] [əˈbaʊt] *prep.* **1.** (*у межах*) у, па; **walk about the room** хадзíць па пакóі; **books lying about the floor** кнíгі, раскíданыя па падлóзе; *He is somewhere about the house.* Ён недзе ў хаце. **2.** аднóсна, пра, аб, накóнт; **a book about stars** кнíга аб зóрках; **speak about literature** гаварыць пра літаратýру; *Tell me about him.* Раскажы мне пра яго; *I came about the job.* Я прыйшоў наконт гэтай работы. **3.** пры (*указанне на наяўнасць чаго-н.*); *I had some money about me*. Пры мне былі грошы. ♦ **be about (to do smth.)** збірáцца (што-н. зрабíць); намéрвацца; **what/how about...** якíя дýмкі, плáны...; *What about Jack?* Як наконт Джэка?; *What's all this about?* У чым справа?; *What's he so angry about?* Чаму ён такі сярдзіты?; *What can I do about it?* Што я магу зрабіць?; *Be quick about it!* Рабі гэта хуценька!; *There's something queer about him.* Ён нейкі дзіўны.

**above**[1] [əˈbʌv] *adv.* **1.** навéрсе, увéрсе, угары́, звéрху **2.** вышэ́й; ранéй; **as stated above** як адзнáчана вышэ́й

**above**[2] [əˈbʌv] *prep.* **1.** над; вышэ́й; *The apartment above mine is to let*. Кватэра над маёй здаецца ў наём. **2.** звыш; бóлей за; **above zero** вышэ́й за нуль/вышэ́й нуля́ (*пра тэмпературу*) ♦ **above all** найпéрш, перш-нáперш, перш за ўсё

**above-mentioned** [əˌbʌvˈmenʃnd] *adj.* вышэйназвáны, вышэйзгадáны

**abrade** [əˈbreɪd] *v.* **1.** здзірáць; здзірáцца (*пра скуру, паверхню чаго-н.*); шаравáць **2.** *tech.* абдзірáць, шліфавáць

**abrasion** [əˈbreɪʒn] *n.* **1.** трэ́нне **2.** рáна, рáнка (*на скуры*)

**abrasive** [əˈbreɪzɪv] *adj.* **1.** абразíўны **2.** рэ́зкі, грýбы (*пра чалавека, яго манеры*)

**abreast** [əˈbrest] *adv.* пóруч, пóбач ♦ **be/keep abreast of the times** ісцí ў нагý з чáсам

**abridge** [əˈbrɪdʒ] *v.* скарачáць

**abridged** [əˈbrɪdʒd] *adj.* скарóчаны; **an abridged story/edition** скарóчанае апавядáнне/выдáнне

**abroad** [əˈbrɔːd] *adv.* за мяжóй; **go abroad** éхаць за мяжý; **from abroad** з-за мяжы́

**abrupt** [əˈbrʌpt] *adj.* **1.** хýткі, неспадзявáны, нечакáны **2.** рэ́зкі, грýбы (*пра паводзіны, манеры*) **3.** круты́ (*пра спуск, схіл*)

**abscess** [ˈæbses] *n.* абсцэ́с, гно́йны нарыу́

**abscond** [əbˈskɒnd] *v. fml* **(from smth., with smb.)** збе́гчы, зні́кнуць; *He absconded from the country with the company funds.* Ён збег з краіны, прыхапіўшы грошы кампаніі.

**absence** [ˈæbsəns] *n.* адсу́тнасць; **absence from work** нявы́хад на пра́цу

**absent** [ˈæbsənt] *adj.* **1. : be absent from** адсу́тнічаць; *He is absent from work today.* Яго сёння няма на працы. **2.** адсу́тны (*пра позірк*)

**absentee** [ˌæbsənˈtiː] *n.* **1.** адсу́тны, які́ не прысу́тнічае **2.** прагу́льшчык; прагу́льшчыца

**absenteeism** [ˌæbsənˈtiːɪzəm] *n.* абсентэ́ізм (*ухіленне ад выканання грамадскіх абавязкаў, напрыклад ад удзелу ў выбарах*); нявы́хад на пра́цу, прагу́л

**absently** [ˈæbsəntli] *adv.* няўва́жліва, рассе́яна

**absent-minded** [ˌæbsəntˈmaɪndɪd] *adj.* рассе́яны, няўва́жлівы, адсу́тны

**absinth(e)** [ˈæbsɪnθ] *n.* абсе́нт (*спіртны напой, горкая настойка на палыне*)

**absolute** [ˈæbsəluːt] *adj.* по́ўны; абсалю́тны; дасканáлы; неабмежава́ны

**absolutely** [ˈæbsəluːtli] *adv.* **1.** зусі́м, ца́лкам **2.** [ˌæbsəˈluːtli] абсалю́тна; безумо́ўна

**absolution** [ˌæbsəˈluːʃn] *n.* адпушчэ́нне/дарава́нне грахо́ў

**absorb** [əbˈsɔːb] *v.* **1.** абсарбірава́ць, паглына́ць, усмо́ктваць **2.** паглына́ць (*перан.*); *His work absorbed him.* Праца захапіла яго цалкам.

**absorbed** [əbˈsɔːbd] *adj.* **: be absorbed in smth./smb.** заглыбля́цца/ паглыбля́цца ў што-н.; захапля́цца чым-н./кім-н.

**absorbent** [əbˈsɔːbənt] *n.* абсарбе́нт; паглына́льнік

**absorbing** [əbˈsɔːbɪŋ] *adj.* захапля́льны, захапля́ючы

**absorption** [əbˈsɔːpʃn] *n.* абсо́рбцыя; паглына́нне

**abstain** [əbˈsteɪn] *v.* **(from) 1.** устры́млівацца (*ад ужывання алкаголю, тытуню і да т.п.*) **2.** устры́млівацца, не галасава́ць; *He abstained from voting*. Ён не пайшоў на выбары.

**abstainer** [əbˈsteɪnə] *n.* **1.** непіту́шчы **2.** які́ ўстры́мліваецца (*пры галасаванні*)

**abstinence** [ˈæbstɪnəns] *n.* абстыне́нцыя, устрыма́нне (*ад ежы, алкаголю, тытуню і да т.п.*)

**abstract**[1] [ˈæbstrækt] *n.* **1.** абстра́кцыя **2.** твор абстра́ктнага маста́цтва **3.** канспе́кт; сці́слы агля́д; рэзюмэ́; рэфера́т

**abstract**[2] [ˈæbstrækt] *adj.* абстра́ктны, адця́гнены

**abstract**[3] [æbˈstrækt] *v.* **1.** аддзяля́ць; выбіра́ць; вылуча́ць **2.** *fml* рэзюма́ваць

**abstraction** [æbˈstrækʃn] *n. fml* **1.** абстра́кцыя; адця́гненае паня́цце; тэарэты́чнае абагульне́нне **2.** заду́млівасць, задуме́ннасць, рассе́янасць **3.** аддзяле́нне, выдзяле́нне

**abstruse** [əbˈstruːs] *adj. fml* малазразуме́лы, цяжкі́ для разуме́ння

**absurd** [əbˈsɜːd] *adj.* абсу́рдны, бессэнсо́ўны, недарэ́чны, бязглу́зды; *Don't be absurd!* Не вярзі бязглуздзіцу!

**absurdity** [əbˈsɜːdəti] *n.* абсу́рднасць, бессэнсо́ўнасць, недарэ́чнасць, бязглу́здзіца

**abundance** [əˈbʌndəns] *n.* бага́цце, даста́так, вялі́кая ко́лькасць; **in abundance** удо́сталь, удо́сыць, уво́лю

**abundant** [əˈbʌndənt] *adj. fml* бага́ты, шчо́дры (*пра ўраджай*); **abundant rain** спо́рны (*вялікі*) дождж

**abuse**[1] [əˈbjuːs] *n.* **1.** няпра́вільнае ўжыва́нне, злоўжыва́нне; **abuse of power** злоўжыва́нне ўла́дай; **drug abuse** злоўжыва́нне нарко́тыкамі **2.** здзек, знява́га; **human rights abuse** парушэ́нне право́ў чалаве́ка **3.** ла́янка, абра́за

**abuse**[2] [əˈbjuːz] *v.* **1.** злоўжыва́ць **2.** здзе́кавацца, катава́ць, му́чыць; зневажа́ць **3.** ла́яць, абража́ць

**abusive** [əˈbjuːsɪv] *adj.* зневажа́льны, ла́янкавы, абра́злівы; **abusive language** брыдкасло́ўе

**abyss** [əˈbɪs] *n. lit.* бе́здань, про́рва (*таксама перан.*)

**AC, a/c** [ˌeɪˈsiː] **1.** (*скар. ад* **air conditioning**) кандыцыянава́нне (*паветра*) **2.** (*скар. ад* **alternating current**) *electr.* пераме́нны ток

**acacia** [əˈkeɪʃə] *n. bot.* ака́цыя

**academic**[1] [ˌækəˈdemɪk] *n.* вы́кла́дчык; прафе́сар; навуко́вы супрацо́ўнік вышэ́йшай навуча́льнай устано́вы; навуко́вец

**academic**[2] [ˌækəˈdemɪk] *adj.* **1.** акадэмі́чны; **an academic year** акадэмі́чны/вучэ́бны год **2.** тэарэты́чны

**academician** [əˌkædəˈmɪʃn] *n.* акадэ́мік

**academy** [əˈkædəmi] *n.* **1.** акадэ́мія (*спецыяльная навучальная ўстанова*); вучы́лішча; **military/naval academy** вае́нная/марска́я акадэ́мія **2.** акадэ́мія; **the Royal Academy of Arts** Каралеўская акадэ́мія маста́цтваў (*у Вялікабрытаніі*)

**accelerate** [əkˈseləreɪt] *v.* паскара́ць

**acceleration** [əkˌseləˈreɪʃn] *n.* паскарэ́нне

**accelerator** [əkˈseləreɪtə] *n.* акселера́тар; педа́ль акселера́тара

**accent**[1] [ˈæksent] *n.* **1.** на́ціск (*у слове*) **2.** знак на́ціску **3.** акцэ́нт, вымаўле́нне

**accent**[2] [ækˈsent] *v.* рабі́ць на́ціск, акцэнтава́ць

**accentuate** [əkˈsentʃueɪt] *v.* акцэнтава́ць, падкрэ́сліваць

**accept** [əkˈsept] *v.* прыма́ць (*у розных знач.*); **accept an offer/an invitation** прыма́ць прапано́ву/запрашэ́нне; **accept smth. (as smth.)** прыма́ць/лічы́ць за пра́ўду; *He was disappointed not to be accepted into the club.* Ён быў расчараваны тым, што яго не прынялі ў клуб.

**acceptable** [əkˈseptəbl] *adj.* прыма́льны, прыда́тны, дапушча́льны

**acceptance** [əkˈseptəns] *n.* **1.** прыня́цце, прыма́нне, прыём **2.** адабрэ́нне, ухвале́нне; **gain/find acceptance** атрыма́ць прызна́нне

**access** [ˈækses] *n.* **(to)** до́ступ; падыхо́д; прахо́д; **have free access** мець свабо́дны до́ступ

**accessible** [əkˈsesəbl] *adj.* дасяга́льны, досту́пны

**accessory** [əkˈsesəri] *n.* **1.** *law* саўдзе́льнік (*злачынства*) **2.** *pl.* **accessories** аксесуа́ры, прыла́ды; рэ́чы

**accident** [ˈæksɪdənt] *n.* **1.** здарэ́нне, няшча́сны вы́падак, ава́рыя; **meet with/have an accident** пацярпе́ць ава́рыю **2.** вы́падак; **by accident** выпадко́ва

**accidental** [ˌæksɪˈdentl] *adj.* выпадко́вы, непрадугле́джаны, нечака́ны

**acclaim¹** [əˈkleɪm] *n.* адабрэ́нне, ухвале́нне*; The book received considerable acclaim.* Кніга атрымала станоўчыя водгукі.

**acclaim²** [əˈkleɪm] *v.* **1.** гу́чна віта́ць; **acclaim the winners of a race** віта́ць перамо́жцаў го́нкі **2.** абвяшча́ць

**acclimatization,** *BrE* **-isation** [əˌklaɪmətaɪˈzeɪʃn] *n.* акліматыза́цыя

**acclimatize,** *BrE* **-ise** [əˈklaɪmətaɪz] *v.* акліматызава́цца, акліматызо́ўвацца, прыстасо́ўвацца (*да новых умоў*)

**accommodate** [əˈkɒmədeɪt] *v.* **1.** забяспе́чваць жыллём, размяшча́ць, дава́ць прыту́лак **2.** змяшча́ць, умяшча́ць

**accommodation** [əˌkɒməˈdeɪʃn] *n.* жыллё, памяшка́нне; прыту́лак, прыста́нішча; **find suitable/temporary/permanent accommodation** знайсці́ прыда́тнае/часо́вае/ста́лае жыллё

**accompaniment** [əˈkʌmpənimənt] *n.* **1.** *mus.* акампанеме́нт; суправаджэ́нне; **to the accompaniment of the guitar** пад гіта́ру **2.** дада́так, дапаўне́нне

**accompanist** [əˈkʌmpənɪst] *n.* акампанія́тар

**accompany** [əˈkʌmpəni] *v. fml* **1.** суправаджа́ць, спадаро́жнічаць **2.** *mus.* акампані́раваць

**accomplice** [əˈkʌmplɪs] *n.* саўдзе́льнік (*злачынства*)

**accomplish** [əˈkʌmplɪʃ] *v.* выко́нваць, здзяйсня́ць, ажыццяўля́ць, завярша́ць; **accomplish one's aim** дасяга́ць сваёй мэ́ты

**accomplished** [əˈkʌmplɪʃt] *adj.* **1.** уме́лы; майстэ́рскі; кваліфікава́ны; даскана́лы; **an accomplished violinist** выда́тны/цудо́ўны скрыпа́ч; **an accomplished poet** ма́йстар паэты́чнага сло́ва **2.** вы́хаваны, культу́рны

**accomplishment** [əˈkʌmplɪʃmənt] *n.* **1.** выкана́нне; завяршэ́нне; дасягне́нне **2.** майстэ́рства

**accord¹** [əˈkɔːd] *n.* гармо́нія; зго́да ♦ **of one's own accord** па ўла́снай во́лі, без прыму́су; **with one accord** аднаду́шна, аднагало́сна

**accord²** [əˈkɔːd] *v. fml* **(with)** адпавяда́ць, знахо́дзіцца ў адпаве́днасці; *His principles and actions do not accord.* Яго прынцыпы і дзеянні не стасуюцца.

**accordance** [əˈkɔːdəns] *n.* **: in accordance with** у адпаве́днасці з, зго́дна з; **act in accordance with the law** дзе́йнічаць у адпаве́днасці з зако́нам

**accordingly** [əˈkɔːdɪŋli] *adv.* **1.** такі́м чы́нам, таму́ **2.** адпаве́дна, у адпаве́днасці

**according to** [əˈkɔːdɪŋtə] *prep.* зго́дна з, паво́дле, адпаве́дна, у адпаве́днасці з; **according to the law** паво́дле зако́ну, зго́дна/у адпаве́днасці з зако́нам

**accordion** [əˈkɔːdiən] *n.* акардэо́н

**accordionist** [əˈkɔːdiənɪst] *n.* акардэані́ст

**accost** [əˈkɒst] *v.* **1.** звярта́цца (*да каго-н.*) **2.** прystава́ць; чапля́цца (*таксама перан.*)

**accoucheur** [ˌækuːˈʃɜː] *n.* акушэ́р

**accoucheuse** [ˌækuːˈʃɜːz] *n.* акушэ́рка

**account¹** [əˈkaʊnt] *n.* **1.** раху́нак (*банкаўскі*); **a current account** бягу́чы раху́нак; **a deposit account** дэпазі́тны раху́нак **2.** тлумачэ́нне; (грашо́вая) справазда́ча **3.** дакла́д ♦ **on account of** таму́ што; **on no account** ні ў я́кім ра́зе; нізашто́; **take into account** браць пад ува́гу

**account²** [əˈkaʊnt] *v.* лічы́ць, разгляда́ць; **account for** тлума́чыць, растлума́чваць; *His illness accounts for his absence.* Яго няма, таму што ён хворы.

**accountable** [əˈkaʊntəbl] *adj.* **1.** падсправазда́чны **2.** адка́зны

**accountancy** [əˈkaʊntənsi] *n.* бухга́лтарская спра́ва, рахункаво́дства; бухга́лтарскі ўлік

**accountant** [əˈkaʊntənt] *n.* бухга́лтар, рахункаво́д

**accumulate** [əˈkjuːmjəleɪt] *v.* **1.** акумуліва́ць, назапа́шваць, збіра́ць (*пра кнігі, грошы і да т.п.*) **2.** збіра́цца (*пра бруд*)

**accumulation** [əˌkjuːmjəˈleɪʃn] *n.* акумуля́цыя, збіра́нне, накапле́нне
**accuracy** [ˈækjərəsi] *n.* дакла́днасць, пра́вільнасць
**accurate** [ˈækjərət] *adj.* дакла́дны, пра́вільны (*пра гадзіннік, карту, падлікі і да т.п.*)
**accusation** [ˌækjuˈzeɪʃn] *n.* абвінава́чанне; абвінава́чванне
**accusative** [əˈkjuːzətɪv] *n.* **: the accusative (case)** *ling.* вінава́льны склон
**accuse** [əˈkjuːz] *v.* **(of)** абвінава́чваць, ста́віць у віну́
**accused** [əˈkjuːzd] *n.* **: the accused** абвінава́чаны, падсу́дны; абвінава́чаныя, падсу́дныя
**accustom** [əˈkʌstəm] *v.* **: accustom oneself to smth.** прызвыча́іцца да чаго́-н.
**accustomed** [əˈkʌstəmd] *adj.* **(to)** звы́клы, прызвыча́ены, прывы́чны; **be/become accustomed** мець звы́чку, прызвыча́йвацца
**ace** [eɪs] *n.* **1.** туз; **the ace of trumps** казы́рны туз **2.** *infml* ас (*пра пілота, футбаліста і г.д.*)
**acetate** [ˈæsɪteɪt] *n.* **1.** *chem.* ацэта́т (*соль воцатнай кіслаты*) **2.** ацэта́тная ткані́на
**ache**[1] [eɪk] *n.* боль; **a dull ache** тупы́ боль; *I've got (a) toothache.* Мне/у мяне баліць зуб; *My body was all aches and pains.* Маё цела ўсё балела.
**ache**[2] [eɪk] *v.* **1.** бале́ць; *My head aches/is aching.* Мне баліць галава. **2.** ве́льмі хаце́ць; жада́ць; *I was aching for home.* Мне вельмі хацелася дадому.
**achieve** [əˈtʃiːv] *v.* **1.** дасяга́ць; **achieve success** дасяга́ць по́спеху **2.** выко́нваць (*пра работу, планы і да т.п.*)
**achievement** [əˈtʃiːvmənt] *n.* дасягне́нне; по́спех; **an achievement test** тэст за пэ́ўны пеы́яд навуча́ння
**Achilles heel** [əˌkɪliːzˈhiːl] *n.* ахіле́сава пята́, сла́бае ме́сца
**acid**[1] [ˈæsɪd] *n.* **1.** кіслата́; **acid rain** кісло́тны дождж; **the acid test** ла́кмусавая папе́ра; про́ба; выпрабава́нне **2.** *slang* нарко́тык ЛСД
**acid**[2] [ˈæsɪd] *adj.* **1.** кі́слы **2.** е́дкі; з'е́длівы (*тон*)
**acidity** [əˈsɪdəti] *n.* **1.** *chem.* кісло́тнасць **2.** *med.* павы́шаная кісло́тнасць (*страўнікавага соку*)
**acknowledge** [əkˈnɒlɪdʒ] *v.* **1.** прызнава́ць; згаджа́цца (*з чым-н.*); **aknowledge the need for reforms** прызнава́ць неабхо́днасць рэфо́рм; **acknowledge one's guilt/mistake** прызнава́ць сваю́ віну́/памы́лку **2.** выка́зваць удзя́чнасць **3.** пацвярджа́ць
**acknowledgement** [əkˈnɒlɪdʒmənt] *n.* **1.** прызна́нне **2.** удзя́чнасць, падзя́ка **3.** пацвярджэ́нне
**acme** [ˈækmi] *n.* вышэ́йшая ступе́нь чаго́-н., кульмінацы́йны пункт; **the acme of perfection** верх дасканА́ласці
**acne** [ˈækni] *n. med.* **1.** вуго́р, прышч **2.** вугрова́тасць (*захворванне*)
**acorn** [ˈeɪkɔːn] *n.* жо́луд
**acoustic** [əˈkuːstɪk] *adj.* акусты́чны, гукавы́
**acoustics** [əˈkuːstɪks] *n.* аку́стыка
**acquaint** [əˈkweɪnt] *v.* **(with)** знаёміць (з)
**acquaintance** [əˈkweɪntəns] *n.* **1.** знаёмства (*з чым-н.*) **2.** знаёмы; знаёмая; **an acquaintance of mine** адзі́н мой знаёмы/адна́ мая́ знаёмая ♦ **make smb.'s acquaintance** знаёміцца з кім-н.
**acquainted** [əˈkweɪntɪd] *adj.* **: be acquainted with smb.** ве́даць каго́-н. асабі́ста; **get/become acquainted** (па)знаёміцца; **be acquainted with smth.** быць знаёмым з чым-н.
**acquire** [əˈkwaɪə] *v. fml* набыва́ць, атры́мліваць; авало́дваць
**acquisition** [ˌækwɪˈzɪʃn] *n.* набыццё; набы́так; **language acquisition** засвае́нне мо́вы; **the acquisition of shares** набыццё а́кцый
**acquit** [əˈkwɪt] *v. law* апраўда́ць (*у судзе*)
**acquittal** [əˈkwɪtl] *n. law* апраўда́нне
**acre** [ˈeɪkə] *n.* акр (*каля 0,4 га*)
**acrid** [ˈækrɪd] *adj.* **1.** е́дкі, во́стры (*пра пах, дым і да т.п.*) **2.** рэ́зкі, з'е́длівы; **an acrid remark** рэ́зкая заўва́га
**acrimony** [ˈækrɪməni] *n. fml* зло́сць; з'е́длівасць
**acrobat** [ˈækrəbæt] *n.* акраба́т; акраба́тка
**acrobatics** [ˌækrəˈbætɪks] *n.* акраба́тыка
**acronym** [ˈækrənɪm] *n. ling.* акро́нім, абрэвіяту́ра (*утвораная з пачатковых літар*)
**across**[1] [əˈkrɒs] *adv.* **1.** упо́перак; ушырыню́; *The lake is more than a mile across.* Возера больш за мілю ў шырыню. **2.** насу́праць, напро́ці; *He lives just across from us.* Ён жыве якраз насупраць нас. **3.** на другі́ бок; *Can you swim across?* Ці можаце вы пераплысці на другі бок?
**across**[2] [əˈkrɒs] *prep.* це́раз, скрозь, праз; упо́перак; **swim across a river** пераплыва́ць раку́; **a bridge across the river** мост це́раз раку́; **across the street** па той бок ву́ліцы
**acrylic**[1] [əˈkrɪlɪk] *n.* **1.** акры́лавае валакно́ **2. acrylic(s)** акры́лавая фа́рба
**acrylic**[2] [əˈkrɪlɪk] *adj.* акры́лавы; **an acrylic sweater** акры́лавы сві́тар
**act**[1] [ækt] *n.* **1.** акт, учы́нак; **an act of kindness** акт/учы́нак міласэ́рнасці; **acts of terrorism** тэрарысты́чныя а́кты **2.** акт, зако́н, пастано́ва, дакуме́нт; **an Act of Congress** зако́н, пры́нятыы Кангрэ́сам **3.** прытво́рства, прыкі́дванне; **put**

**on an act** рабíць вы́гляд; прытвара́цца, прыкíдвацца **4.** *theatre* дзéя, акт **5. : a circus act** цыркавы́ ну́мар ♦ **catch smb. in the act** злавíць каго́-н. на мéсцы злачы́нства

**act²** [ækt] *v.* **1.** дзéйнічаць; *The doctors acted promptly.* Дактары дзейнічалі неадкладна. **2.** трыма́цца; паво́дзіць сябé **3.** прытвара́цца, прыкíдвацца, рабíць вы́гляд; *I decided to act dumb.* Я вырашыў прытварыцца нямым. **4.** вы-ко́нваць, (і)гра́ць ро́лю; (і)гра́ць на сцэ́не; **act Hamlet** ігра́ць ро́лю Га́млета **5. (on)** уздзéйнічаць; *Alcohol acts quickly on the brain.* Алкаголь хутка ўздзейнічае на мозг. ♦ **act for smb./on behalf of smb./on smb.'s behalf** дзéйнічаць ад імя́ каго́-н./выќонваць фу́нкцыі каго́-н.

**act out** [ˌæktˈaʊt] *phr.v.* разы́грываць; рабíць вы́гляд

**act up** [ˌæktˈʌp] phr.v. infml дурэ́ць, забаўля́цца, сваво́ліць

**acting¹** [ˈæktɪŋ] *n.* выкана́нне, ігра́ (*на сцэне*)

**acting²** [ˈæktɪŋ] *adj.* часо́вы, часо́ва выко́нваючы абавя́зкі; **the acting manager** выко́нваючы абавя́зкі кіраўнікá/мéнеджара

**action** [ˈækʃn] *n.* **1.** дзéянне; **time for action** час/пара́ дзéйнічаць **2.** учы́нак; *Each of us must take responsibility for our own actions.* Кожны павінен быць адказны за свае ўчынкі.

**activate** [ˈæktɪveɪt] *v.* актывізава́ць

**activation** [ˌæktɪˈveɪʃn] *n. chem.* актыва́цыя

**active** [ˈæktɪv] *adj.* акты́ўны, дзéйны; **the active voice** *ling.* незалéжны стан

**activist** [ˈæktɪvɪst] *n.* актывíст, дзéяч; **a human rights activist** праваабаро́нца

**activity** [ækˈtɪvəti] *n.* **1.** акты́ўнасць, дзéйнасць **2.** *pl.* **activities** заня́ткі, дзéйнасць, мерапрыéмствы (*пра спорт, адпачынак і да т.п.*)

**actor** [ˈæktə] *n.* акцёр

**actress** [ˈæktrəs] *n.* актры́са, акто́рка

**actual** [ˈæktʃuəl] *adj.* рэча́існы, сапра́ўдны, факты́чны

**actuality** [ˌæktʃuˈæləti] *n. fml* **1.** рэча́існасць **2.** існава́нне

**actually** [ˈæktʃuəli] *adv.* ула́сна ка́жучы, факты́чна; так, як ёсць; на са́май спра́ве

**acumen** [ˈækjəmən] *n.* кéмлівасць, кéмнасць, ця́млівасць

**acupuncture** [ˈækjupʌŋktʃə] *n.* акупункту́ра, іголкатэрапíя

**acute** [əˈkjuːt] *adj.* во́стры; мо́цны; **an acute pain** во́стры боль

**AD** [ˌeɪˈdiː] (*скар. ад лацін.* **Anno Domini**) на́шай э́ры

**ad** [æd] *n. infml* (*скар. ад* **advertisement**) аб'я́ва, рэкла́мная аб'я́ва

**adage** [ˈædɪdʒ] *n.* вы́слоўе; пры́маўка, пры́казка

**adagio** [əˈdɑːdʒiəʊ] *n. mus.* ада́жыа

**Adam** [ˈædəm] *n.* **1.** *bibl.* Ада́м **2.** чалавéк, мужчы́на ♦ **I don't know him from Adam.** Я яго і ў вочы не бачыў.

**adamant** [ˈædəmənt] *adj. fml* **1.** непахíсны, нязло́мны **2.** упа́рты

**Adam's apple** [ˌædəmzˈæpl] *n.* ада́маў я́блык, кады́к

**adapt** [əˈdæpt] *v.* **1.** прыстасо́ўваць; **adapt oneself (to)** прыстасо́ўвацца (*да чаго-н.*) **2.** адаптава́ць

**adaptability** [əˌdæptəˈbɪləti] *n.* прыстасава́льнасць

**adaptable** [əˈdæptəbl] *adj.* прыстасава́льны, які́ лёгка прыстасо́ўваецца

**adaptation** [ˌædæpˈteɪʃn] *n.* **1.** адапта́цыя, прыстасава́нне (*арганізма да навакольнага асяроддзя*) **2.** адапта́цыя (*перапрацоўка тэксту*)

**adapter, adaptor** [əˈdæptə] *n.* ада́птар, пераходні́к

**adaptive** [əˈdæptɪv] *adj.* адапты́ўны, які́ ма́е адно́сіны да адапта́цыі

**add** [æd] *v.* **1.** прыбаўля́ць, дадава́ць **2. (to)** павялí чваць, узмацня́ць; *To add to our difficulties it was getting dark.* У дадатак да ўсяго пачынала цямнець. ♦ **add fuel to the fire/flames** падліва́ць смалы́/ма́сла/алéю ў аго́нь (*пагаршаць сітуацыю*)

**add in** [ˌædˈɪn] *phr.v.* дабаўля́ць, уключа́ць (*у цану*)

**add on** [ˌædˈɒn] *phr.v.* **1.** прыбаўля́ць (*да сумы*) **2.** прыбудо́ўваць

**add up** [ˌædˈʌp] *phr.v.* склада́ць, скла́дваць; падлí чваць ♦ **it doesn't add up** канцы́ з канца́мі не сыхо́дзяцца

**addenda** [əˈdendə] *pl.* → **addendum**

**addendum** [əˈdendəm] *n.* (*pl.* **addenda**) адэ́ндум, дапаўнéнне, дада́так (*да асноўнай часткі*)

**adder** [ˈædə] *n.* гадзю́ка

**addict** [ˈædɪkt] *n.* **: a drug addict** наркама́н; **a tobacco/nicotine addict** зая́длы курэ́ц

**addicted** [əˈdɪktɪd] *adj.* **: be addicted to drugs/alcohol/tobacco** мець згу́бную ця́гу да нарко́тыкаў/алкаго́лю/тытуню́

**addiction** [əˈdɪkʃn] *n.* **: drug addiction** наркама́нія

**addictive** [əˈdɪktɪv] *adj.* які́ выклíкае шко́дныя звы́чкі (*пра наркотыкі, алкаголь і да т.п.*)

**addition** [əˈdɪʃn] *n.* **1.** дабаўлéнне, дада́так **2.** *math.* склада́нне ♦ **in addition** апрача́, акрамя́ таго́, да таго́ ж

**aquatic** [əˈkwætɪk] *adj.* **1.** вадзяны́; **aquatic plants** вадзяны́я раслі́ны **2.** вадаплáўны (*пра птушак*) **3.** вóдны (*пра спорт*)

**aqua vitae** [ˌækwəˈvaɪtiː, ˌækwəˈviːtaɪ] *n. лацін.* мóцны алкагóльны напóй (*брэндзі, гарэлка*), алкагóль

**aqueduct** [ˈækwɪdʌkt] *n.* акведýк

**aquiline** [ˈækwɪlaɪn] *adj.* арлі́ны; **an aquiline nose** арлі́ны нос

**Arab¹** [ˈærəb] *n.* **1.** арáб; арáбка **2.** арáбскі скакýн

**Arab²** [ˈærəb] *adj.* арáбскі; **Arab countries/nations** арáбскія краі́ны

**arabesque** [ˌærəˈbesk] *n.* арабéска (*у розных знач.*)

**Arabian** [əˈreɪbiən] *adj.* араві́йскі; **the Arabian desert** Аравí́йская пусты́ня/пустэ́льня; **the Arabian Nights** «Ты́сяча і аднá ноч» (*казкі*)

**Arabic¹** [ˈærəbɪk] *n.* арáбская мóва; **in Arabic** па-арáбску

**Arabic²** [ˈærəbɪk] *adj.* арáбскі; **the Arabic alphabet** арáбскі алфаві́т; **Arabic numerals** арáбскія лі́чбы

**arabica** [əˈræbɪkə] *n.* арáбіка (*кава*)

**Arabist** [ˈærəbɪst] *n.* арабі́ст

**arable** [ˈærəbl] *adj.* вóрны; **arable land** вóрная зямля́

**Aramaic¹** [ˌærəˈmeɪɪk] *n.* арамéйская мóва

**Aramaic²** [ˌærəˈmeɪɪk] *adj.* арамéйскі; **the Aramaic alphabet** арамéйскі алфаві́т

**arbiter** [ˈɑːbɪtə] *n.* **1.** арбі́тр, суддзя́; пасрэ́днік **2.** трацéйскі суддзя́ ♦ **an arbiter of fashion/style** заканадáўца мод/сты́лю

**arbitrage** [ˈɑːbɪtrɑːʒ, ˈɑːbɪtrɪdʒ] *n. econ.* **1.** арбітрáжныя аперáцыі (*куплі і продажу каштоўных папер*) **2.** арбітрáж, трацéйскае рашэ́нне

**arbitrariness** [ˈɑːbɪtrərinəs] *n.* **1.** адвóльнасць **2.** самавóльства; дэспаты́зм **3.** *ling.* умóўнасць

**arbitrary** [ˈɑːbɪtrəri] *adj.* **1.** адвóльны; выпадкóвы **2.** самавóльны; дэспаты́чны **3.** умóўны; **arbitrary signs/symbols** умóўныя знáкі/ сі́мвалы

**arbitrate** [ˈɑːbɪtreɪt] *v.* **1.** быць трацéйскім суддзёй; вынóсіць трацéйскае рашэ́нне **2.** перадавáць (спрáву) у арбітрáж

**arbitration** [ˌɑːbɪˈtreɪʃn] *n.* трацéйскі суд; арбітрáж

**arbitrator** [ˈɑːbɪtreɪtə] *n.* **1.** арбі́тр, суддзя́; пасрэ́днік **2.** трацéйскі суддзя́

**arboreta** [ˌɑːbəˈriːtə] *pl.* → **arboretum**

**arboretum** [ˌɑːbəˈriːtəm] *n.* (*pl.* **arboretums** *or* **arboreta**) арбарэ́тум; дэндрáрый; гадавáльнік (*для дрэў і кустоў*)

**arbour** [ˈɑːbə] *n.* альтáнка

**arc** [ɑːk] *n.* **1.** áрка **2.** дугá

**arcade** [ɑːˈkeɪd] *n.* **1.** пасáж; **a shopping arcade** гандлёвыя рады́ **2.** *archit.* аркáда

**arcane** [ɑːˈkeɪn] *adj. fml* таéмны, патаéмны

**arch¹** [ɑːtʃ] *n.* **1.** áрка **2.** скляпéнне

**arch²** [ɑːtʃ] *adj.* (*часта неадабральна*) хі́тры (*пра позірк, усмешку*); спры́тны

**arch³** [ɑːtʃ] *v.* выгінáць дугóй; *The cat arched its back and hissed.* Кот выгнуў спіну дугою і зашыпеў.

**archaeological** [ˌɑːkiəˈlɒdʒɪkl] *adj.* археалагі́чны

**archaeologist** [ˌɑːkiˈɒlədʒist] *n.* археóлаг

**archaeology** [ˌɑːkiˈɒlədʒi] *n.* археалóгія

**archaic** [ɑːˈkeɪɪk] *adj.* архаі́чны; устарэ́лы; **an archaic form/word** архаі́чная фóрма/архаі́чнае слóва; *The system is archaic and needs changing.* Сістэма ўстарэла і патрабуе зменаў.

**archaism** [ˈɑːkeɪɪzəm] *n. ling.* архаі́зм

**archangel** [ˈɑːkeɪndʒl] *n.* архáнгел

**archbishop** [ˌɑːtʃˈbɪʃəp] *n.* архібі́скуп; архіепі́скап

**archdeacon** [ˌɑːtʃˈdiːkən] *n.* архідыя́кан

**archduchess** [ˌɑːtʃˈdʌtʃəs] *n. hist.* эрцгерцагі́ня (*тытул члена былой аўстрыйскай імператарскай фаміліі*)

**archduchy** [ˌɑːtʃˈdʌtʃi] *n.* эрцгéрцагства

**archduke** [ˌɑːtʃˈdjuːk] *n. hist.* эрцгéрцаг (*тытул члена былой аўстрыйскай імператарскай фаміліі*)

**arched** [ɑːtʃt] *adj.* áрачны, áркавы

**arch-enemy** [ˌɑːtʃˈenəmi] *n.* **1.** закля́ты вóраг **2.** д'я́бал

**archeologist** [ˌɑːkiˈɒlədʒɪst] *AmE* = **archaeologist**

**archeology** [ˌɑːkiˈɒlədʒi] *AmE* = **archaeology**

**archer** [ˈɑːtʃə] *n.* **1.** стралóк з лýка; лýчнік **2. the Archer** *astron.* Стралéц (*сузор'е*) **3. the Archer** *astrol.* Стралéц (*знак задыяка; чалавек, які нарадзіўся пад гэтым знакам*)

**archery** [ˈɑːtʃəri] *n.* стральбá з лýка

**archetypal** [ˌɑːkiˈtaɪpl] *adj.* праттаты́пны

**archetype** [ˈɑːkitaɪp] *n.* археты́п; прататы́п; тыпóвы прадстаўні́к

**archimandrite** [ˌɑːkɪˈmændraɪt] *n.* архімандры́т

**archipelago** [ˌɑːkɪˈpeləgəʊ] *n.* архіпелáг

**architect** [ˈɑːkɪtekt] *n.* архітэ́ктар, дóйлід

**architectural** [ˌɑːkɪˈtektʃərəl] *adj.* архітэктýрны, будаўні́чы

**architecture** [ˈɑːkɪtektʃə] *n.* архітэктýра, дóйлідства

**archival** [ɑːˈkaɪvl] *adj.* архі́ўны

**archive(s)** [ˈɑːkaɪv(z)] *n.* **1.** архі́ў, архі́ўныя дакумéнты **2.** архі́ў (*месца захоўвання*)

**archive** [ˈɑːkaɪv] *v.* **1.** змяшчáць у архíў **2.** *comput.* архівавáць

**archivist** [ˈɑːkɪvɪst] *n.* архівíст; спецыялíст па архíўнай спрáве; супрацóўнік архíва; хавáльнік фóнду

**archway** [ˈɑːtʃweɪ] *n.* прахóд пад áркай

**Arctic**[1] [ˈɑːktɪk] *n.* **the Arctic** Áрктыка

**Arctic**[2] [ˈɑːktɪk] *adj.* **1.** аркты́чны; паўнóчны; паля́рны; **the Arctic Circle** Паўнóчны паля́рны круг; **the Arctic Ocean** Паўнóчны Ледавíты акія́н **2. arctic** аркты́чны, сцюдзёны, вéльмі халóдны

**ardent** [ˈɑːdnt] *adj.* пáлкі; гарáчы; палымя́ны; **an ardent desire** гарáчае жадáнне; **an ardent lover** пáлкі палюбóўнік; **an ardent supporter** заўзя́ты прыхíльнік

**ardor** [ˈɑːdə] *AmE* = **ardour**

**ardour** [ˈɑːdə] *n. BrE, fml* **1.** палымя́насць; запáл, гарáчнасць **2.** энтузія́зм; старáннасць; імпэ́т ♦ **damp smb.'s ardour** астудзíць чый-н. запáл

**arduous** [ˈɑːdjuəs] *adj. fml* ця́жкі, напрýжаны; энергíчны; **an arduous ascent** ця́жкае ўзыхóджанне; **an arduous task** ця́жкая задáча; **arduous work** напрýжаная прáца

**are** [ɑː, ə] *мн. л., цяпер. ч. ад* **be**

**area** [ˈeəriə] *n.* **1.** тэрытóрыя; плóшча; абся́г; **the area under cultivation** пасяўнáя плóшча; *She knows the local area very well.* Яна ведае мясцовасць вельмі добра. **2.** рэгіён, зóна, раён, акрýга; **a conservation area** запавéднік; **a dollar area** дóларавая зона; **a no-go area** 1) забарóненая зóна 2) забарóненая тэ́ма **3.** плóшча; *The room is 12 square metres in area.* Гэты пакой мае памер 12 квадратных метраў. **4.** сфéра; галінá дзéйнасці; вóбласць

**arena** [əˈriːnə] *n.* **1.** арэ́на; крýглая сцэ́на (*у цырку, тэатры і да т.п.*) **2.** арэ́на; пóле дзéйнасці; **the international/political arena** міжнарóдная/паліты́чная арэ́на

**aren't** [ɑːnt] *скар. ад* **1.** are not **2.** am not (*у пыт. ск.*)

**argon** [ˈɑːɡɒn] *n. chem.* аргóн

**argot** [ˈɑːɡəʊ] *n. ling.* аргó, жаргóн; **thieves' argot** зладзéйскі жаргóн

**arguable** [ˈɑːɡjuəbl] *adj. fml* **1.** даказáльны; **it is arguable that**... мóжна сцвярджáць, што... **2.** спрэ́чны; які́ патрабýе дóказаў

**arguably** [ˈɑːɡjuəbli] *adv.* **:** *He is arguably the best actor of his generation.* Ён, я ўпэўнены, лепшы акцёр свайго пакалення.

**argue** [ˈɑːɡjuː] *v.* **1. (with)**, **(about/over)** спрачáцца; *Do what you are told and don't argue* (*with me*). Рабі тое, што табе кажуць, і не спрачайся (са мной). **2.** аргументавáць; дакáзваць, давóдзіць, перакóнваць; **it is argued that…** сцвярджáецца, што…; **argue against/for smth.** прывóдзіць дóвады сýпраць/на карысць чагó-н.; **argue smb. into/out of doing smth.** пераканáць кагó-н. рабíць/не рабíць штó-н.

**argument** [ˈɑːɡjumənt] *n.* **1.** спрэ́чка; дыскýсія; **a matter of argument** спрэ́чнае пытáнне **2.** аргумéнт, дóказ, дóвад

**argumentation** [ˌɑːɡjumenˈteɪʃn] *n.* аргументáцыя, прывядзéнне дóказаў

**argumentative** [ˌɑːɡjuˈmentətɪv] *adj.* **1.** які́ любíць спрачáцца **2.** спрэ́чны, дыскусíйны

**argy-bargy** [ˌɑːdʒiˈbɑːdʒi] *n. BrE, infml* вэ́рхал, гармíдар

**aria** [ˈɑːriə] *n. mus.* áрыя

**arid** [ˈærɪd] *adj.* **1.** сухí; перасóхлы; засýшлівы (*пра зямлю, клімат*); **arid deserts** бязвóдныя пусты́ні/пустэ́льні **2.** нецікáвы; нýдны; **an arid discussion** нецікáвая дыскýсія

**aridity** [əˈrɪdəti] *n.* засýшлівасць, сухатá; сýхасць (*таксама перан.*)

**Aries** [ˈeəriːz] *n.* **1.** *astron.* Авéн (*сузор'е*) **2.** *astrol.* Авéн (*знак задыяка; чалавек, які нарадзіўся пад гэтым знакам*)

**arise** [əˈraɪz] *v.* **(arose, arisen)** *fml* **1.** паўставáць; узнімáцца; узнікáць (*таксама перан.*); *A storm arose during the night.* Ноччу пачалася бура; *A new crisis has arisen.* Пачаўся новы крызіс; *A question arose…* Паўстала пытанне… **2. : arise from/out of smth.** *fml* паўставáць з; мець вытóкі **3.** *dated* уставáць (*з пасцелі*); *He arose at dawn.* Ён устаў на досвітку.

**arisen** [əˈrɪzn] *p.p.* → **arise**

**aristocracy** [ˌærɪˈstɒkrəsi] *n.* арыстакрáтыя

**aristocrat** [ˈærɪstəkræt] *n.* арыстакрáт; арыстакрáтка

**aristocratic** [ˌærɪstəˈkrætɪk] *adj.* арыстакраты́чны

**arithmetic** [əˈrɪθmətɪk] *n.* арыфмéтыка

**arithmetic(al)** [ˌærɪθˈmetɪk(l)] *adj.* арыфметы́чны; **arithmetic progression** *math.* арыфметы́чная прагрэ́сія

**ark** [ɑːk] *n.* каўчэ́г ♦ **Noah's ark** Нóеў каўчэ́г; **out of the ark** устарэ́лы

**arm**[1] [ɑːm] *n.* **1.** рукá (*ад кісці да пляча*); **at arm's length** на адлéгласці вы́цягнутай рукí; **under the arm** пад пáхай **2.** рукáў (*адзення*); *The arms need shortening.* Рукавы трэба ўкараціць. **3.** рýчка (*крэсла*); падлакóтнік **4. : the arm of the river** рукáў ракí ♦ **arm in arm** пад рукý/пад рýчку; **with open arms** сардэ́чна, рáдасна, вéтліва; **keep smb. at arm's length** трымáць кагó-н. на адлéгласці

**arm**[2] [ɑːm] *v.* узбро́йваць; **arm oneself with** узбро́йвацца (*таксама перан.*)

**armada** [ɑːˈmɑːdə] *n.* арма́да (*таксама перан.*)

**armadillo** [ˌɑːməˈdɪləʊ] *n. zool.* армадзі́л

**armament(s)** [ˈɑːməmənt(s)] *n.* **1.** збро́я, узбрае́нне; **the armaments industry** вае́нная прамысло́васць; **an armaments factory** вае́нны заво́д **2.** узбрае́нне (*дзеянне, працэс*)

**armband** [ˈɑːmbænd] *n.* нарука́ўная павя́зка

**armchair** [ˈɑːmtʃeə, ɑːmˈtʃeə] *n.* крэ́сла, фатэ́ль; **an armchair traveller** тэлевандро́ўнік, тэлепадаро́жнік

**armed** [ɑːmd] *adj.* узбро́ены (*у розных знач.*); **an international armed conflict** міжнаро́дны ўзбро́ены канфлі́кт; *The man is armed and dangerous.* Гэты чалавек узброены і небяспечны. ♦ **armed to the teeth** узбро́ены да зубо́ў

**armed forces** [ˌɑːmdˈfɔːsɪs] *n.* **the armed forces** а́рмія, узбро́еныя сі́лы

**Armenian**[1] [ɑːˈmiːniən] *n.* **1.** армяні́н; армя́нка; **the Armenians** армя́не **2.** армя́нская мо́ва

**Armenian**[2] [ɑːˈmiːniən] *adj.* армя́нскі

**armful** [ˈɑːmfʊl] *n.* бярэ́мя (*дроў*); аха́пак (*сена*); **an armful of fresh flowers** аха́пак све́жых кве́так

**armistice** [ˈɑːmɪstɪs] *n.* пераммі́р'е, замірэ́нне; спыне́нне вае́нных дзе́янняў

**armor** [ˈɑːmə] *AmE* = **armour**

**armored** [ˈɑːməd] *AmE* = **armoured**

**armory** [ˈɑːməri] *AmE* = **armoury**

**armour** [ˈɑːmə] *n.* ла́ты; па́нцыр; браня́

**armoured** [ˈɑːməd] *adj.* браніраваны́; **an armoured car** бронеаўтамабі́ль; бронемашы́на; бранявіќ; **an armoured personnel carrier** бронетранспарцёр

**armoury** [ˈɑːməri] *n.* **1.** арсена́л (*таксама перан.*) **2.** *AmE* будь́інак для вайско́вай падрыхто́ўкі непрафесіяна́лаў

**armpit** [ˈɑːmpɪt] *n.* па́ха, падпа́ха

**armrest** [ˈɑːmrest] *n.* падлако́тнік

**arms** [ɑːmz] *n. pl.* **1.** збро́я, узбрае́нне **2. (coat of) arms** герб ♦ **be under arms** быць пад ружжо́м, быць у ста́не баяво́й гато́ўнасці; **lay down one's arms** скла́сці збро́ю; **take up arms** узя́цца за збро́ю

**arms control** [ˈɑːmzkənˌtrəʊl] *n.* кантро́ль над узбрае́ннем

**arms race** [ˈɑːmzreɪs] *n.* го́нка ўзбрае́ння

**arm-twisting** [ˈɑːmtwɪstɪŋ] *n. infml* выкру́чванне рук (*перан.*)

**arm-wrestling** [ˈɑːmreslɪŋ] *n. sport* армрэ́слінг (*від барацьбы*)

**army** [ˈɑːmi] *n.* **1.** а́рмія **2.** во́йска; *Her husband is in the army.* Яе муж служыць у войску. **3.** вялі́кая ко́лькасць, мно́ства

**arnica** [ˈɑːnɪkə] *n. bot.* а́рніка; купа́льнік

**aroma** [əˈrəʊmə] *n.* прые́мны пах, духмя́насць, во́дар

**aromatherapy** [əˌrəʊməˈθerəpi] *n.* араматэрапі́я

**aromatic** [ˌærəˈmætɪk] *adj.* араматы́чны, паху́чы, духмя́ны, во́дарны; **aromatic herbs** паху́чыя тра́вы

**arose** [əˈrəʊz] *past* → **arise**

**around**[1] [əˈraʊnd] *adv.* **1.** прыблі́зна, каля́; *She is around fifty.* Ёй пад пяцьдзясят; *Tom arrived around six o'clock.* Том прыехаў каля шасці гадзін. **2.** наво́кал, вако́л, наўко́л; **all around** усю́ды; *I could hear laughter all around.* З усіх бакоў я мог чуць смех. **3.** паўсю́ль; усю́ды; *There were papers lying around all over the floor.* Паўсюль на падлозе ляжалі паперы. ♦ **he's been around** ён чалаве́к быва́лы

**around**[2] [əˈraʊnd] *prep.* **1.** вако́л (*кругом*); **a fence around the garden** плот вако́л агаро́да; *Let's go around the town, not through it.* Давайце паедзем кругом, а не праз горад. **2.** па (*усюды*); **books lying around the room** кні́гі, раскі́даныя па пако́і; **walk around the streets** хадзі́ць па ву́ліцах **3.** каля́ (*недзе блізка*); *He lives somewhere around London.* Ён жыве недзе каля Лондана; *The children are playing around the house.* Дзеці гуляюць каля хаты.

**around-the-clock** [əˌraʊndðəˈklɒk] *adj.* беспераПы́нны; кругласу́тачны

**arousal** [əˈraʊzl] *n.* **1.** абуджэ́нне (*таксама перан.*) **2.** узбуджэ́нне; **emotional/sexual arousal** эмацыяна́льнае/сексуа́льнае ўзбуджэ́нне

**arouse** [əˈraʊz] *v.* **1.** будзі́ць, абуджа́ць (*таксама перан.*); **arouse suspicion** выкліка́ць падазрэ́нне **2.** узбуджа́ць (*сексуальна*)

**arpeggio** [ɑːˈpedʒiəʊ] *n. mus.* арпе́джыа

**arr.** (*пісьмовае скар. ад* **arrives/arrival**); **arr. London 06.00** прыбыва́е ў Ло́ндан а шо́стай гадзі́не ра́ніцы

**arraign** [əˈreɪn] *v. law* прыця́гваць да суда́; абвінава́чваць

**arrange** [əˈreɪndʒ] *v.* **1.** арганізо́ўваць, нала́джваць, ла́дзіць; *The party was arranged quickly.* Вечарыну хутка арганізавалі. **2.** сістэматызава́ць, пара́дкаваць, упарадко́ўваць; уладко́ўваць, прыво́дзіць да ла́ду; *The books were arranged alphabetically.* Кнігі былі ўпарадкаваны па алфавіце. **3.** *mus.* рабі́ць аранжыро́ўку **4.** дамаўля́цца; **as arranged** як дамо́ўлена

**arrangement** [əˈreɪndʒmənt] *n.* **1.** сістэматыза́цыя; размяшчэ́нне **2.** *pl.* **arrangements** падрыхто́ўка; ме́ры/мерапрые́мствы арганізацы́йнага хара́ктару; **travel arrangements** падрыхто́ўка да падаро́жжа; **make arrangements (for)** прыма́ць ме́ры (да); *I'll make arrangements for you to be met at the airport.* Я зраблю ўсё, каб вас сустрэлі ў аэрапорце. **3.** аранжыро́ўка (*музычная*) **4.** дамо́ўленасць; **by prior arrangement** зго́дна з папярэ́дняй дамо́ўленасцю; **come to an arrangement** прыйсці́ да зго́ды

**arrant** [ˈærənt] *adj. dated* **: an arrant hypocrite** страшэ́нны крывадушнік; **an arrant fool** чы́сты ду́рань; **arrant nonsense** чы́стая лухта́

**array**[1] [əˈreɪ] *n.* **1.** кале́кцыя; **an array of tools** набо́р інструме́нтаў; прыла́ды **2. : in battle array** у баявы́м пара́дку **3.** *comput.* табліца; ма́трыца **4.** *lit.* убо́р, убра́нне

**array**[2] [əˈreɪ] *v. fml* **1.** размясці́ць у пэ́ўным пара́дку (*пра прадметы, рэчы і да т.п.*) **2.** выстро́йваць, ста́віць стро́ем **3.** апрана́ць; апрана́цца; *She was arrayed in a black velvet gown.* Яна была апранута ў чорную аксамітавую сукенку.

**arrears** [əˈrɪəz] *n. pl.* запазы́чанасць; доўг; даўгі́; **be in arrears** мець запазы́чанасць; **rent arrears** запазы́чанасць па кварттпла́це

**arrest**[1] [əˈrest] *n.* **1.** а́рышт; затрыма́нне; узя́цце пад ва́рту; пазбаўле́нне во́лі; *He was put under arrest.* Яго арыштавалі. **2.** спыне́нне; затры́мка; *He died after suffering a cardiac arrest.* Ён памёр ад сардэчнага прыступу.

**arrest**[2] [əˈrest] *v.* **1.** арышто́ўваць; пазбаўля́ць во́лі; *You can get arrested for doing that.* Вас могуць за гэта арыштаваць. **2.** *fml* затры́мліваць; спыня́ць (*таксама перан.*) **3.** звярта́ць увагу, захапля́ць; **arrest smb.'s attention** прыцягваць чыю́-н. уваѓу; *An unusual noise arrested his attention.* Незвычайны шум прыцягнуў яго ўвагу.

**arresting** [əˈrestɪŋ] *adj.* захапля́льны; прыцяга́льны

**arrival** [əˈraɪvl] *n.* **1.** прые́зд; прыхо́д; прыбыццё **2.** чалаве́к, які́ прые́хаў/прыбы́ў; **an early/late arrival** чалаве́к, які́ прые́хаў ра́на/по́зна **3.** нованаро́джаны; *They are expecting a new arrival in the family.* Яны чакаюць прыбаўлення ў сям'і.

**arrive** [əˈraɪv] *v.* **1. (at, in, on)** прыязджа́ць; прылята́ць; прыхо́дзіць; прыбыва́ць; *She'll arrive in New York at noon.* Яна прыедзе ў Нью-Ёрк апоўдні. **2.** надыхо́дзіць, прыхо́дзіць, настава́ць; *The wedding day finally arrived.* Нарэшце надышоў дзень вяселля. **3.** рабіцца вядо́мым; праслаўля́цца ♦ **arrive at an agreement** прыйсці́ да зго́ды; **arrive at a decision/a conclusion** прыйсці́ да рашэ́ння/высно́вы

**arrogance** [ˈærəgəns] *n.* пы́ха; пага́рда; фанабэ́рыстасць; самаўпэ́ўненасць; ганары́стасць

**arrogant** [ˈærəgənt] *adj.* пыхлі́вы; напы́шлівы; пага́рдлівы; фанабэ́рысты; самаўпэ́ўнены; ганарлі́вы

**arrow** [ˈærəʊ] *n.* страла́; стрэ́лка

**arse** [ɑːs] *n. BrE, slang* **1.** *taboo* зад, ду́па **2.** ду́рань, бо́ўдзіла

**arsenal** [ˈɑːsənl] *n.* арсена́л; склад збро́і і ваеннай амуні́цыі

**arsenic** [ˈɑːsnɪk] *n. chem.* мыш'я́к

**arson** [ˈɑːsn] *n.* падпа́л (*наўмысны і злачынны*)

**arsonist** [ˈɑːsənɪst] *n.* падпа́льшчык

**art**[1] [ɑːt] *n.* **1.** маста́цтва; **fine arts** выяўле́нчае маста́цтва; **applied arts** прыкладно́е маста́цтва; **works of art** тво́ры маста́цтва **2.** *pl.* **the arts** гуманіта́рныя наву́кі **3.** уме́нне; майстэ́рства

**art**[2] [ɑːt] *v. archaic* **: thou art** = **you are**

**artefact** [ˈɑːtɪfækt] *n.* артэфа́кт

**arterial** [ɑːˈtɪəriəl] *adj. med.* артэрыя́льны

**arteriosclerosis** [ɑːˌtɪəriəʊskləˈrəʊsɪs] *n. med.* артэрыясклеро́з

**artery** [ˈɑːtəri] *n.* **1.** *med.* артэ́рыя **2.** магістра́ль, гало́ўны шлях

**artesian** [ɑːˈtiːziən] *adj.* артэзія́нскі; **artesian well** артэзія́нскі кало́дзеж

**artful** [ˈɑːtfl] *adj.* **1.** хі́тры; спры́тны; **an artful person** спрытню́га **2.** до́бры, зру́чны ў карыста́нні (*пра рэчы, прадметы*)

**artfulness** [ˈɑːtflnəs] *n.* **1.** хі́трасць **2.** спры́тнасць; уме́нне

**art gallery** [ˌɑːtˈgæləri] *n.* маста́цкая галерэ́я

**arthritic** [ɑːˈθrɪtɪk] *n., adj. med.* хво́ры на артры́т

**arthritis** [ɑːˈθraɪtɪs] *n. med.* артры́т

**artichoke** [ˈɑːtɪtʃəʊk] *n.* арцішо́к; **Jerusalem artichoke** земляна́я гру́ша, тапінамбу́р

**article** [ˈɑːtɪkl] *n.* **1.** арты́кул (*у газеце, часопісе*) **2.** пункт, пара́граф, арты́кул (*у дакуменце*) **3.** прадме́т, рэч; **household articles** прадме́ты/рэ́чы ха́тняга ўжы́тку **4.** *ling.* арты́кль; **the definite/indefinite article** азнача́льны/неазнача́льны арты́кль

**articulate**[1] [ɑːˈtɪkjələt] *adj.* **1.** выра́зны, членараздзе́льны **2.** я́сны, дакла́дна сфармулява́ны

**articulate**[2] [ɑːˈtɪkjuleɪt] *v.* **1.** я́сна выража́ць/фармулява́ць **2.** *ling.* артыкулява́ць; выра́зна вымаўля́ць **3.** злуча́ць; **an articulated lorry/truck** грузаві́к з прычэ́пам

**articulation** [ɑːˌtɪkjuˈleɪʃn] *n. ling.* артыкуля́цыя
**articulatory** [ɑːˌtɪkjuˈleɪtəri] *adj.* артыкуляцы́йны
**artifact** [ˈɑːtɪfækt] = **artefact**
**artifice** [ˈɑːtɪfɪs] *n. fml* хі́трыкі з мэ́тай ашука́нства
**artificial** [ˌɑːtɪˈfɪʃl] *adj.* **1.** шту́чны, ненатура́льны **2.** прытво́рны, уя́ўны, удава́ны, фальшы́вы
**artificial intelligence** [ˌɑːtɪfɪʃlɪnˈtelɪdʒəns] *n. comput.* шту́чны інтэле́кт
**artificiality** [ˌɑːtɪˌfɪʃiˈæləti] *n.* **1.** шту́чнасць, ненатура́льнасць **2.** прытво́рнасць, фальшы́васць
**artificial respiration** [ˌɑːtɪfɪʃlrespəˈreɪʃn] *n. med.* шту́чнае дыха́нне
**artillery** [ɑːˈtɪləri] *n.* артыле́рыя
**artisan** [ˌɑːtɪˈzæn] *n. fml* раме́снік
**artist** [ˈɑːtɪst] *n.* **1.** маста́к; маста́чка **2.** арты́ст; арты́стка
**artiste** [ɑːˈtiːst] *n.* (эстра́дны) арты́ст; (эстра́дная) арты́стка
**artistic** [ɑːˈtɪstɪk] *adj.* **1.** маста́цкі; **the artistic director of the theatre** маста́цкі кіраўні́к тэа́тра **2.** артысты́чны; **artistic abilities/talent** артысты́чныя здо́льнасці/артысты́чны та́лент
**artistry** [ˈɑːtɪstri] *n.* артысты́зм; майстэ́рства
**artless** [ˈɑːtləs] *adj. fml* **1.** про́сты, натура́льны, прастаду́шны, ня́хітры **2.** немайстэ́рскі; неадмысло́вы
**artlessness** [ˈɑːtləsnəs] *n.* натура́льнасць, непасрэ́днасць, прастаду́шнасць
**artsy** [ˈɑːtsi] *adj. AmE* = **arty**
**artwork** [ˈɑːtwɜːk] *n.* 1. ілюстра́цыі (*да кнігі, часопіса і да т.п.*) 2. тво́р маста́цтва
**arty** [ˈɑːti] *adj. infml* які́ прэтэнду́е на артысты́чнасць; з прэтэ́нзіяй на ве́данне маста́цтва
**Aryan**[1] [ˈeəriən] *n.* 1. індаеўрапе́ец 2. ары́ец; ары́йка
**Aryan**[2] [ˈeəriən] *adj.* **1.** індаеўрапе́йскі **2.** ары́йскі
**as**[1] [æz; əz] *pron.* што, які́, (такі́) як (напры́клад); *She came the same day as you.* Яна прыехала ў той самы дзень, што і вы; *Some animals, as the fox and the wolf…* Некаторыя звяры, як, напрыклад, лісіца і воўк…
**as**[2] [æz; əz] *adv., prep.* **1.** у ро́лі, у я́касці; як; *Speaking as a doctor I wouldn't advise this.* Як доктар я б вам гэта не параіў; *They were all dressed as clowns.* Яны ўсе былі апрануты ў касцюмы клоўнаў. **2.** *часам перакладаецца тв. скл.*; *He works as a teacher.* Ён працуе настаўнікам; *The news came as a shock.* Навіна сталася шокам; **as always** як заўсёды; **as a result of smth.** у вы́ніку чаго́-н.; **as…as** (*ужываецца пры параўнанні дзвюх асоб, з'яў і г.д.*) **:** *He is as tall as his father.* Ён такога самага росту, як і яго бацька; *It's not as hard as I thought.* Гэта не так цяжка, як я думаў; **as far as** нако́лькі; *As far as I remember/know.* Наколькі я памятаю/ведаю; **as soon as possible** як мага́ хутчэ́й ♦ **as white as snow** бе́лы як снег
**as**[3] [æz; əz] *conj.* **1.** (*у дадаых сказах часу*) у той час як; калі́; *I saw her as she was getting off the bus.* Я ўбачыў яе, калі яна выходзіла з аўтобуса. **2.** (*у дададых сказах способу дзеяння*) як; *Do it as I do.* Рабі гэта, як я; *Leave it as it is.* Пакінь гэта, як яно ёсць. **3.** (*у дададых сказах прычыны*) пако́лькі, таму́ што, бо; *As he was ill, we went without him.* Мы паехалі без яго, бо ён хварэў. **4.** (*у дададых уступальных сказах*) хоць, як ні; *Tired as he was he walked on.* Хоць ён і стаміўся, але ішоў далей. **5.** (*не перакладаецца*) *This is a picture of my father as photographed in 1970.* Гэта фатаграфія майго бацькі, зробленая ў 1970 годзе. **6.** (*у спалучэннях*) **: as for** што даты́чыць, што ты́чыцца, што да; *As for Alison, she's doing fine.* Што да Элісан, у яе ўсё цудоўна; **as it is** як ёсць, у цяпе́рашнім ста́не; **as it were** так бы мо́віць; **as long as** (*у дададых сказах умовы і часу*) калі́, пры ўмо́ве што, паку́ль, у той час як; *You can take the book as long as you promise to give it back in a week's time.* Ты можаш узяць кнігу, калі паабяцаеш вярнуць яе праз тыдзень; **as much** гэ́так і; так і; *I thought as much.* Я так і думала; **as regards/as to** што да, што даты́чыць; **as soon as** (*у дададых сказах часу*) як то́лькі; *I'll tell him the news as soon as I see him.* Я раскажу яму гэтыя навіны, як толькі ўбачу яго; **as usual** як звыча́йна; *Jane was late as usual.* Як звычайна, Джэйн спазнілася; **as well** такса́ма; *She can do it as well.* Яна таксама можа гэта зрабіць; **as well as** у дада́так; такса́ма; *They own a house in France as well as a villa in Spain.* Яны маюць дом у Францыі, а таксама вілу ў Іспаніі; **as yet** дагэ́туль; паку́ль што; *We've had no word from John as yet.* Дагэтуль мы нічога не чулі ад Джона.
**asana** [ˈɑːsənə] *n.* аса́на
**asap** [ˌeɪeseɪˈpiː] *скар. ад* **as soon as possible** як мага́ хутчэ́й
**asbestos** [æsˈbestəs] *n. min.* азбе́ст
**ascend** [əˈsend] *v. fml* узніма́цца, узыхо́дзіць; паднім́ацца (*таксама перан.*); **ascend the throne** узысці́ на прасто́л/трон
**ascendancy, ascendency** [əˈsendənsi] *n. fml* **(over)** панава́нне; перава́га; даміну́ючая пазі́цыя

**ascendant, ascendent** [əˈsendənt] *n., adj. fml* які дамі́нуе/пану́е; пану́ючы

**ascension** [əˈsenʃn] *n.* **1. the Ascension** *eccl.* Узнясе́нне, Ушэ́сце **2.** *fml* узыхо́джанне

**Ascension Day** [əˈsenʃndeɪ] *n. eccl.* Узнясе́нне, Ушэ́сце

**ascent** [əˈsent] *n.* узыхо́джанне; пад'ём (*на гару, узгорак і да т.п.*); узлёт (*пра самалёт*); **a steep ascent** круты́/стро́мкі пад'ём

**ascertain** [ˌæsəˈteɪn] *v. fml* высвятля́ць, устана́ўліваць; перако́нвацца, упэ́ўнівацца; *The police are trying to ascertain what really happened.* Паліцыя імкнецца высветліць, што здарылася на самай справе.

**ascetic[1]** [əˈsetɪk] *n.* аске́т; аске́тка

**ascetic[2]** [əˈsetɪk] *adj.* аскеты́чны; стры́маны

**asceticism** [əˈsetɪsɪzəm] *n.* аскеты́зм

**ascorbic acid** [əˌskɔːbɪkˈæsɪd] *n.* аскарбі́навая кіслата́

**ascribe** [əˈskraɪb] *v.* **(to)** прыпі́сваць (*каму-н. што-н.*); *This work is usually ascribed to Shakespeare*. Гэты твор звычайна прыпісваюць Шэкспіру.

**ASEAN** [ˈæsiæn] (*скар. ад* **Association of South East Asian Nations**) АСЕА́Н

**asepsis** [ˌeɪˈsepsɪs] *n. med.* асе́птыка

**aseptic** [ˌeɪˈseptɪk] *adj. med.* асепты́чны, абеззара́жаны

**asexual** [ˌeɪˈsekʃuəl] *adj.* **1.** асексуа́льны **2.** бяспо́лы

**ash[1]** [æʃ] *n.* **1.** по́пел; **turn to ashes** спапялі́ць, ператвары́ць у по́пел; *They burnt the town to ashes.* Яны спалілі горад дашчэнту. **2. ashes** тлен; прах; *She wanted her ashes to be scattered at sea.* Яна пажадала, каб яе прах развеялі над морам.

**ash[2]** [æʃ] *n. bot*. я́сень

**ashamed** [əˈʃeɪmd] *adj.* **(of)** засаро́млены; прысаро́млены; **be (feel) ashamed (of)** саро́мецца; *I was ashamed of his behaviour.* Мне было сорамна за яго паводзіны; *I was ashamed to say that I had lied to him.* Мне было сорамна прызнацца, што я зманіла яму.

**ash-can** [ˈæʃkæn] *n. AmE* кантэ́йнер для сме́цця

**ashen** [ˈæʃn] *adj.* по́пельны; бле́дны, змярцве́лабле́дны (*пра колер твару*)

**ashore** [əˈʃɔː] *adv.* **1.** да бе́рага, на бе́раг; **come/go ashore** сыхо́дзіць на бе́раг **2.** на бе́разе

**ashtray** [ˈæʃtreɪ] *n.* по́пельніца

**Ash Wednesday** [ˌæʃˈwenzdi] *n. eccl.* Папяльцо́вая серада́ (*першы дзень Вялікага посту ў заходнім хрысціянстве*)

**Asian[1]** [ˈeɪʃn,ˈeɪʒn] *n.* жыха́р А́зіі; азія́т; азія́тка

**Asian[2]** [ˈeɪʃn,ˈeɪʒn] *adj.* азія́цкі

**Asian American** [ˌeɪʃnəˈmerɪkən] *n.* амерыка́нец, про́дкі яко́га пахо́дзяць з А́зіі

**Asiatic** [ˌeɪʃiˈætɪk] *adj.* **: the Asiatic tropics** тро́пікі А́зіі

**aside** [əˈsaɪd] *adv.* убо́к; збо́ку; убаку́; **put/set aside** 1) адклада́ць, адкла́дваць (*грошы*); *We set aside some money for repairs.* Мы адклалі грошы на рамонт. 2) адклада́ць на по́тым; *We put the question aside for next week.* Мы адклалі пытанне на наступны тыдзень; **take smb. aside** адве́сці каго́-н. убо́к

**aside from** [əˈsaɪdfrəm] *prep. AmE* = **apart from** апрача́, акрамя́; *Aside from a few scratches, I'm OK.* Калі не лічыць некалькіх драпін, у мяне ўсё ў норме.

**as if** [əzˈɪf] *conj.* бы́ццам, як бы́ццам, нібы́, як бы; *He shook his head as if to say "no"*. Ён пакруціў галавою, нібы кажучы «не»; *He looked at me as if I was mad.* Ён паглядзеў на мяне, быццам я звар'яцеў.

**asinine** [ˈæsɪnaɪn] *adj. fml* дурны́, тупы́, абмежава́ны

**ask** [ɑːsk] *v.* **1.** пыта́ць, спыта́ць; пыта́цца, спыта́цца, запыта́цца; *Can I ask a question?* Я магу задаць пытанне?; *He asked about her family.* Ён спытаўся пра яе сям'ю; *He asked where I lived.* Ён спытаўся, дзе я жыву. **2.** (па)прасі́ць (*аб чым-н.*); **ask for help** прасі́ць дапамо́гі **3.** прасі́ць дазво́лу; *He asked the boss whether he could have a day off.* Ён спытаўся ў боса, ці можа ён мець выхадны дзень. **4.** пыта́цца, даве́двацца; **ask for a job** пыта́цца нако́нт рабо́ты **5.** запраша́ць; зваць; *They asked me to dinner.* Яны запрасілі мяне на абед. **6.** патрабава́ць; *You are asking too much of him.* Вы патрабуеце ад яго зашмат. **7. : ask smb. out** запраша́ць каго́-н. у тэ́атр, рэстара́н і да т.п. ♦ **be asking for it/be asking for trouble** *infml* ле́зці/пе́рціся на ражо́н; шука́ць бяды́; ле́зці ў бяду́

**askance** [əˈskæns] *adv.* падазро́на, недаве́рліва; **look askance at smb.** глядзе́ць на каго́-н. ско́са

**askew[1]** [əˈskjuː] *adj.* крывы́, ко́сы, касы́; перако́шаны, нахі́лены набо́к; *His hat was slightly askew.* Яго капялюш быў крыху набакір.

**askew[2]** [əˈskjuː] *adv.* кры́ва, ко́са; набо́к, набакі́р

**aslant** [əˈslɑːnt] *adv.* ко́са, наўко́с, наўскася́к; *The picture hung aslant.* Карціна вісела крыва.

**asleep** [əˈsliːp] *adj.* **1.** які́ спіць; спя́чы; **be fast/sound asleep** мо́цна спаць; **fall asleep** засну́ць **2.** апаты́чны, неакты́ўны, безува́жны; *He is asleep to the danger.* Ён не ўсведамляе небя-

спекі. **3.** здранцве́лы, зняме́лы (*пра руку, нагу*) **4.** спачы́лы (*пра нябожчыка*), паме́рлы
**aslope** [əˈsləʊp] *adv.* ко́са, нахі́лена, нахі́льна, пахі́ла; на схі́ле
**asocial** [eɪˈsəʊʃəl] *adj.* **1.** адасо́блены, замкнёны, неканта́ктны **2.** асацыя́льны, антыграма́дскі
**asp** [æsp] *n. zool.* ядаві́тая змяя́; гадзю́ка
**asparagus** [əˈspærəgəs] *n. bot.* спа́ржа
**aspect** [ˈæspekt] *n.* **1.** аспе́кт, бок; пункт гле́джання; *They considered the problem in all aspects.* Яны разгледзелі праблему з усіх бакоў. **2.** *fml* вы́раз (*твару, вачэй*); вы́гляд; во́нкавы/зне́шні вы́гляд; **of pleasing aspect** прые́мнай зне́шнасці **3.** *fml* бок, кіру́нак; **the eastern aspect of the building** усхо́дні бок буды́нка; *My house has a south aspect.* Фасад майго дома глядзіць на поўдзень. **4.** *ling.* трыва́нне; **the imperfective/perfective aspect** незако́нчанае/зако́нчанае трыва́нне **5.** *astron.* канфігура́цыя (*планет*)
**aspen¹** [ˈæspən] *n.* асі́на
**aspen²** [ˈæspən] *adj.* асі́навы ♦ **tremble like an aspen leaf** дрыжэ́ць як асі́навы ліст
**asperate** [ˈæspəreɪt] *v. fml* рабі́ць гру́бым, рабі́ць шурпа́тым
**asperges** [əsˈpɜːdʒiːz] *n. eccl.* краплéнне (*святой вадой*)
**asperity** [æˈsperɪti] *n. fml* **1.** шурпа́тасць, няро́ўнасць **2.** рэ́зкасць (*пра голас, манеры*) **3.** суро́васць; **the asperity of the northern winter** суро́васць паўно́чнай зімы́
**asperse** [əˈspɜːs] *v. fml* га́ньбіць, ганьбава́ць; ясла́віць, знеслаўля́ць
**aspersion** [əˈspɜːʃn] *n. fml* ганьбава́нне
**asphalt¹** [ˈæsfælt] *n.* асфа́льт; біту́м
**asphalt²** [ˈæsfælt] *v.* асфальтава́ць, пакрыва́ць асфа́льтам
**asphyxia** [æsˈfɪksiə] *n. med.* асфіксі́я, удушэ́нне
**asphyxiate** [əsˈfɪksieɪt] *v.* душы́ць; выклікáць асфі́ксію; задыха́цца (*ад недахопу кіслароду*); **be asphyxiated by gas** атруці́цца га́зам
**asphyxiation** [əsˌfɪksiˈeɪʃn] *n.* уду́шша, удушэ́нне
**aspic** [ˈæspɪk] *n.* жэле́, заліўно́е; **fish in aspic** заліўна́я ры́ба
**aspirant¹** [əˈspaɪərənt] *n. fml* прэтэндэ́нт; прэтэндэ́нтка; кандыда́т; кандыда́тка
**aspirant²** [əˈspaɪərənt] *adj. fml* які́ імкне́цца (*да чаго-н.*), які́ прэтэнду́е (*на што-н.*)
**aspirate¹** [ˈæspərət] *n. ling.* прыдыха́льны гук
**aspirate²** [ˈæspəreɪt] *v.* **1.** вымаўля́ць з прыдыха́ннем **2.** *med.* выдаля́ць ва́дкасць з це́ла (*з дапамогай аспіратара*)
**aspiration** [ˌæspəˈreɪʃn] *n.* **1.** імкне́нне, мо́цнае жада́нне, пра́га; *I didn't realize he had political aspirations.* Я не ўсведамляла, што ў яго былі палітычныя амбіцыі. **2.** *ling.* прыдыха́нне
**aspirator** [ˈæspɪreɪtə] *n. tech.* аспіра́тар
**aspire** [əˈspaɪə] *v.* **(to)** імкну́цца (*да чаго-н.*); мець мо́цнае жада́нне, пра́гнуць; дамага́цца; *She aspired to a scientific career.* У яе было моцнае жаданне займацца навукай.
**aspirin** [ˈæsprɪn] *n. med.* аспіры́н; табле́тка аспіры́ну; *Take two aspirin(s) for a headache.* Прымі дзве таблеткі аспірыну ад галаўнога болю.
**aspiring** [əˈspaɪərɪŋ] *adj.* **1.** амбі́тны; пра́гны да паша́ны/сла́вы **2.** *poet.* які́ імкне́цца да высо́кага
**asquint** [əˈskwɪnt] *adv.* ко́са, ско́са (*таксама перан.*); **look asquint** глядзе́ць ско́са; глядзе́ць падазро́на/недаве́рліва
**ass¹** [æs] *n.* **1.** асёл (*таксама перан.*) **2.** *BrE, infml* ду́рань, бо́ўдзіла
**ass²** [æs] *n. AmE, slang, taboo* зад, ду́па
**assail** [əˈseɪl] *v. fml* **1.** атакава́ць, напада́ць (*таксама перан.*); рэ́зка крытыкава́ць **2.** апано́ўваць, ахапля́ць (*пра страх, сумненні і да т.п.*); *He was assailed by fear.* Яго апанаваў страх.
**assailant** [əˈseɪlənt] *n. fml* напа́днік, хто атаку́е або́ напада́е
**assassin** [əˈsæsɪn] *n.* забо́йца, кі́лер
**assassinate** [əˈsæsɪneɪt] *v.* забіва́ць (*пра палітычных або грамадскіх дзеячаў*)
**assassination** [əˌsæsɪˈneɪʃn] *n.* забо́йства (*вядомага палітычнага або грамадскага дзеяча*)
**assault¹** [əˈsɔːlt] *n.* **1.** напа́д (*таксама перан.*); **sexual assaults** напа́ды з мэ́тай згвалтава́ння **2.** пры́ступ, ата́ка, штурм; **an assault on the capital** штурм сталі́цы; **take by assault** узя́ць шту́рмам; **assault and battery** *law* абра́за дзе́яннем
**assault²** [əˈsɔːlt] *v.* **1.** напада́ць; *He has been charged with assaulting a police officer.* Яго абвінавацілі ў нападзе на афіцэра паліцыі. **2.** атакава́ць; ісці́ на пры́ступ; штурмава́ць
**assay¹** [əˈseɪ] *n. tech.* ана́ліз, про́ба, тэст (*металаў або хімічных рэчываў*)
**assay²** [əˈseɪ] *v.* аналізава́ць сплаў ці рэ́чыва; правяра́ць, дасле́даваць
**assemblage** [əˈsemblɪdʒ] *n. fml* **1.** збор; кале́кцыя (*пра рэчы*); гру́па (*людзей*) **2.** збо́рка; манта́ж
**assemble** [əˈsembl] *v.* **1.** збіра́ць; збіра́цца; *All the students were asked to assemble in the main hall.* Усіх студэнтаў папрасілі сабрацца ў актавай зале. **2.** збіра́ць (*часткі мэблі, механізмаў і да т.п.*)

**assembly** [əˈsembli] *n.* **1.** асамбле́я; заканада́ўчы о́рган; **the UN General Assembly** Генера́льная Асамбле́я Арганіза́цыі Аб'ядна́ных На́цый **2.** сход **3.** пасяджэ́нне **4.** збо́рка (*частак мэблі, механізмаў і да т.п.*)
**assembly line** [əˈsembliˌlaɪn] *n.* канве́ер
**assembly plant** [əˈsembliˌplɑːnt] *n.* збо́рачны цэх
**assembly room** [əˈsembliˌrʊm] *n.* за́ла пасяджэ́нняў; а́ктавая за́ла
**assent**[1] [əˈsent] *n. fml* **(to)** зго́да (*на што-н.*); прыня́цце прапано́вы
**assent**[2] [əˈsent] *v. fml* **(to)** згаджа́цца, пагаджа́цца; даць зго́ду (*на што-н.*); *He didn't assent to the terms they proposed.* Ён не згадзіўся на тыя ўмовы, якія яны прапанавалі.
**assert** [əˈsɜːt] *v.* **1.** сцвярджа́ць, упэ́ўніваць, запэ́ўніваць; *He continued to assert that he was innocent.* Ён настойліва сцвярджаў, што не вінаваты. **2.** адсто́йваць (*правы, пункт гледжання*); насто́йваць (*на сваіх правах*); **assert one's independence** адсто́йваць сваю самасто́йнасць/незале́жнасць; **assert oneself** самасцвярджа́цца
**assertion** [əˈsɜːʃn] *n.* **1.** сцве́рджанне, зая́ва **2.** упэ́ўніванне, запэ́ўніванне
**assertive** [əˈsɜːtɪv] *adj.* **1.** напо́рысты, упэ́ўнены **2.** самаўпэ́ўнены, саманадзе́йны; **in an assertive tone** аўтарытэ́тным то́нам
**assess** [əˈses] *v.* **1.** ацэ́ньваць (*таксама перан.*); **assess a situation** ацані́ць сітуа́цыю **2.** вызнача́ць, устана́ўліваць су́му (*падатку, штрафу*); **assess damages** вызнача́ць су́му грашо́вай кампенса́цыі
**assessment** [əˈsesmənt] *n.* **1.** ацэ́нка, ацэ́ньванне **2.** атэста́цыя **3.** вы́значаная су́ма пла́ты
**assessor** [əˈsesə] *n.* **1.** кансульта́нт; экспе́рт-кансульта́нт **2.** ацэ́ншчык **3.** экспе́рт; суддзя́ (*спартыўных спаборніцтваў*)
**asset** [ˈæset] *n.* **1.** кашто́ўнасць, ва́ртасць **2.** *pl.* **assets** акты́ў; маёмасць **3.** ко́зыр
**asset-stripping** [ˈæsetˌstrɪpɪŋ] *n.* ску́пка маёмасці па ні́зкіх цэ́нах з мэ́тай перапро́дажу па больш высо́кіх цэ́нах
**assiduity** [ˌæsɪˈdjuːəti] *n. fml* стара́ннасць, дба́йнасць, руплі́васць
**assiduous** [əˈsɪdjuəs] *adj. fml* стара́нны, дба́йны, руплі́вы; ува́жлівы
**assign** [əˈsaɪn] *v.* **1.** дава́ць, задава́ць; даруча́ць; **assign homework** (за)дава́ць дама́шняе зада́нне; *The teacher assigned each of the pupils a different task.* Настаўнік даў кожнаму вучню розныя заданні. **2.** назнача́ць, прызнача́ць, вызнача́ць (*дзень, тэрмін*) **3.** перадава́ць правы́/маёмасць; *The agreement assigns copyright to the publisher.* Згодна з пагадненнем аўтарскае права перадаецца выдаўцу.
**assignation** [ˌæsɪɡˈneɪʃn] *n. fml* патае́мнае спатка́нне
**assignee** [ˌæsaɪˈniː] *n.* правапераемнік; упаўнава́жаны, прызна́чаная асо́ба
**assignment** [əˈsaɪnmənt] *n.* **1.** зада́нне; даручэ́нне **2.** прызначэ́нне, назначэ́нне
**assimilate** [əˈsɪməleɪt] *v.* **1.** засво́йваць, прыма́ць; **assimilate new ideas** прыма́ць но́выя ідэ́і **2.** асіміля́ва́ць; асімілява́цца; **assimilate immigrants** асімілява́ць імігра́нтаў
**assimilation** [əˌsɪməˈleɪʃn] *n.* **1.** асіміля́цыя, засво́йванне, засвае́нне **2.** *ling.* асіміля́цыя, прыпадабне́нне гу́каў (*пры вымаўленні*)
**assist** [əˈsɪst] *v.* **1.** дапамага́ць, падтры́млівацъ; *We'll do all we can to assist you.* Мы зробім усё, каб дапамагчы вам; **assist smb. with money/in his work** дапамагчы́ каму́-н. грашы́ма/у пра́цы **2.** садзе́йнічаць **3. : assist in smth.** прыма́ць удзе́л у чым-н.
**assistance** [əˈsɪstəns] *n.* дапамо́га, падтры́мка; *Can I be of any assistance?* Ці магу я чым-небудзь дапамагчы?; **technical/ economic/ military assistance** тэхні́чная/эканамі́чная/вае́нная дапамо́га; **render/give smb. assistance** аказа́ць каму́-н. дапамо́гу
**assistant** [əˈsɪstənt] *n.* асістэ́нт; асістэ́нтка; памо́чнік; памо́чніца; памага́ты; памага́тая
**assistant professor** [əˌsɪstəntprəˈfesə] *n. AmE* ≅ дацэ́нт (*выкладчык універсітэта ці каледжа*)
**Assoc.** (*пісьмовае скар. ад* **Association**) асацыя́цыя, аб'ядна́нне
**associate**[1] [əˈsəʊʃiət] *n.* **1.** кале́га; супрацо́ўнік; супрацо́ўніца; партнёр; **business associates** партнёры па бізнесе **2.** тава́рыш; ся́бра; сябро́ўка; супо́льнік; супо́льніца; **crime associates** саўдзе́льнікі; хаўру́снікі
**associate**[2] [əˈsəʊʃiət] *adj.* **1.** аб'ядна́ны; звя́заны (*па рабоце, бізнесе*) **2.** ніжэ́йшы (*па рангу, пасадзе і да т.п.*); **an associate director** памо́чнік дырэ́ктара; **an associate editor** памо́чнік рэда́ктара; **an associate member** член (*якой-н. арганізацыі*) з няпо́ўнымі права́мі
**associate**[3] [əˈsəʊʃieɪt] *v.* **1.** асацыява́ць, звя́зваць (*у думках*); *We associate the name of Columbus with the discovery of America.* Мы звязваем імя Калумба з адкрыццём Амерыкі; **be associated with smb./smth.** быць звя́заным з чым-н./кім-н.; *Her name is associated with the women's rights movement.* Яе імя звязваюць з рухам за правы жанчын. **2.** аб'ядно́ўваць; аб'ядно́ўвацца; далуча́ць; далуча́цца; злуча́ць; злуча́цца; **associate one firm with an-**

**other** аб'ядно́ўваць фі́рму з фі́рмай **3.** ве́сці знаёмства, хаўрусава́ць; *I don't like you associating with those people.* Мне не падабаецца, што ты водзішся з гэтымі людзьмі. **4.** *fml* падтры́млiваць; далуча́цца (*да думкі, пункту погляду і да т.п.*)

**associate professor** [əˌsəʊʃiətprəˈfesə] *n. AmE* акадэмі́чны ранг, ніжэ́йшы за прафе́сара

**association** [əˌsəʊʃiˈeɪʃn] *n.* **1.** асацыя́цыя; тавары́ства; супо́лка; згуртава́нне; аб'ядна́нне; **Automobile Association** аўтамабі́льная асацыя́цыя **2. (with)** су́вязь (*паміж людзьмі, арганізацыямі*) сябро́ўства, партнёрства; **in association with** суме́сна (з) **3.** асацыя́цыя; успамі́н; **pleasant associations with childhood holidays** прые́мныя асацыя́цыі, звя́заныя з адпачы́нкам у дзяці́нстве

**associative** [əˈsəʊʃiətɪv] *adj.* асацыятыю́ўны

**assonance** [ˈæsənəns] *n. poet.* асана́нс

**assonant** [ˈæsənənt] *adj.* асана́нсны, сугу́чны

**assort** [əˈsɔːt] *v.* сартава́ць; размярко́ўваць; групава́ць; класіфікава́ць

**assorted** [əˈsɔːtɪd] *adj.* пасартава́ны; ме́шаны, мяша́ны; разнаста́йны; **assorted chocolates** набо́р шакала́ду асарці́

**assortment** [əˈsɔːtmənt] *n.* асартыме́нт; набо́р; **a wide assortment of goods** шыро́кі асартыме́нт тава́раў

**Asst** (*пісьмовае скар. ад* **Assistant**) **Asst Manager** памо́чнік ме́неджара

**assuage** [əˈsweɪdʒ] *v. fml* змякча́ць, палягча́ць, суціша́ць (*боль, гора*); наталя́ць (*голад*)

**assume** [əˈsjuːm] *v.* **1.** меркава́ць, лічы́ць, дапуска́ць; **let us assume that…** дапу́сцім, што… **2.** *fml* прысво́йваць (*уладу*), захо́пліваць **3.** *fml* браць імя́; *He assumed a new name.* Ён узяў сабе новае імя. **4. : assume an air of innocence** прыня́ць няві́нны вы́гляд

**assumed** [əˈsjuːmd] *adj.* **1.** прыня́ты; **an assumed name** псеўдані́м, прыня́тае імя́ **2.** удава́ны; **assumed indifference** удава́ная абыякавасць

**assuming** [əˈsjuːmɪŋ] *conj.* дапу́сцім; *Assuming it rains tomorrow, what shall we do?* Дапусцім, што заўтра будзе дождж, што мы будзем рабіць?

**assumption**[1] [əˈsʌmpʃn] *n.* **1.** меркава́нне, дапушчэ́нне **2.** *fml* прысвае́нне, захо́п (*улады*) **3.** прыня́цце (*абавязку*)

**Assumption**[2] [əˈsʌmpʃn] *n. eccl.* Успе́нне (*Багародзіцы*)

**assurance** [əˈʃʊərəns] *n.* **1.** запэ́ўненне, упэ́ўненне **2.** упэ́ўненасць, пераканáнасць; самаўпэ́ўненасць **3.** *BrE* страхава́нне (*жыцця*); страхо́ўка

**assure** [əˈʃʊə] *v.* **1. (of)** запэ́ўніваць, упэ́ўніваць, перако́нваць **2. (oneself of smth.)** упэ́ўнівацца, перако́нвацца **3.** гарантава́ць, забяспе́чваць **4.** *BrE* страхава́ць жыццё

**assured** [əˈʃʊəd] *adj.***1.** упэ́ўнены (*пра голас, манеры і да т.п.*) **2.** гарантава́ны, пэ́ўны; *Success seems assured.* Поспех гарантаваны.

**assuredly** [əˈʃʊədli] *adv. fml* безумо́ўна, напэ́ўна, пэ́ўна

**Assyrian**[1] [əˈsɪriən] *n.* **1.** асіры́ец; асіры́йка **2.** асіры́йская мо́ва

**Assyrian**[2] [əˈsɪriən] *adj.* асіры́йскі

**aster** [ˈæstə] *n. bot.* а́стра

**asterisk**[1] [ˈæstərɪsk] *n.* зо́рачка (*знак зноскі*)

**asterisk**[2] [ˈæstərɪsk] *v.* пазнача́ць зо́рачкай

**astern** [əˈstɜːn] *adv. naut.* **1.** на карме́; за кармо́й; *My cabin is astern.* Мая каюта на карме. **2.** наза́д

**asteroid** [ˈæstərɔɪd] *n. astron.* астэро́ід

**asthenia** [æsˈθiːniə] *n. med.* астэні́я, кво́ласць, сла́басць

**asthenic** [æsˈθenɪk] *adj. med.* астэні́чны, кво́лы, сла́бы

**asthma** [ˈæsmə] *n. med.* а́стма

**asthmatic**[1] [æsˈmætɪk] *n.* астма́тык; хво́ры на а́стму

**asthmatic**[2] [æsˈmætɪk] *adj.* астматы́чны; **an asthmatic attack** пры́ступ а́стмы; **asthmatic patients** хво́рыя на а́стму

**as though** [əzˈðəʊ] = **as if**

**astigmatic** [ˌæstɪgˈmætɪk] *adj.* астыгматы́чны; **astigmatic lenses** астыгматы́чныя лі́нзы

**astigmatism** [əˈstɪgmətɪzəm] *n. med.* астыгматы́зм

**astir** [əˈstɜː] *adj., adv.* узбу́джаны; у ру́ху; на нага́х

**astonish** [əˈstɒnɪʃ] *v.* здзіўля́ць, дзіві́ць, ура́жваць; *The news astonished everyone.* Навіна здзівіла ўсіх.

**astonished** [əˈstɒnɪʃt] *adj.* здзі́ўлены, ура́жаны

**astonishing** [əˈstɒnɪʃɪŋ] *adj.* які́ здзіўля́е/ура́жвае; уража́льны

**astonishingly** [əˈstɒnɪʃɪŋli] *adv.* на дзі́ва; неспадзява́на; *Jane took the news astonishingly well.* Джэйн успрыняла навіну на дзіва добра.

**astonishment** [əˈstɒnɪʃmənt] *n.* здзіўле́нне; **to my astonishment** на маё здзіўле́нне; **in astonishment** у здзіўле́нні

**astound** [əˈstaʊnd] *v.* мо́цна здзіўля́ць, ура́жваць; шакі́раваць; *She was astounded by his arrogance.* Яна была шакіравана яго пагардлівым стаўленнем.

**astounded** [əˈstaʊndɪd] *adj.* вéльмі ўрáжаны; шакíраваны

**astrakhan** [ˌæstrəˈkæn] *n.* карáкуль; **astrakhan coats** карáкулевыя фýтры

**astral** [ˈæstrl] *adj.* **1.** *astron.* зóркавы, зóрны **2.** астрáльны

**astray** [əˈstreɪ] *adj., adv.* **: go astray** заблудзíцца, збíцца з дарóгі (*таксама перан.*) ♦ **lead smb. astray** збіць каго-н. з дарóгі

**astride**[1] [əˈstraɪd] *adv.* вéрхам; **ride astride** éхаць вéрхам; **stand astride** стаяць, расстáвіўшы нóгі

**astride**[2] [əˈstraɪd] *prep.* **1.** вéрхам; *He sits astride his horse.* Ён сядзіць верхам на кані. **2.** уздóўж, паабáпал

**astringent**[1] [əˈstrɪndʒənt] *n.* вяжучы срóдак (*пра ласьён, лекі і да т.п.*)

**astringent**[2] [əˈstrɪndʒənt] *adj.* **1.** вяжучы; які спыняе кроў **2.** крытычны, рэзкі (*пра словы, каментарый*) **3.** рэзкі (*пра смак або пах*)

**astrologer** [əˈstrɒlədʒə] *n.* астрóлаг

**astrological** [ˌæstrəˈlɒdʒɪkl] *adj.* астралагíчны

**astrology** [əˈstrɒlədʒi] *n.* астралóгія

**astronaut** [ˈæstrənɔːt] *n.* астранáўт; астранáўтка; касманáўт; касманáўтка

**astronomer** [əˈstrɒnəmə] *n.* астранóм

**astronomical** [ˌæstrəˈnɒmɪkl] *adj.* **1.** астранамíчны **2.** *infml* вéльмі вялíкі, велічэзны, велізáрны; **astronomical sums of money** велізáрныя сýмы грóшай

**astronomy** [əˈstrɒnəmi] *n.* астранóмія

**astrophysicist** [ˌæstrəʊˈfɪzɪsɪst] *n.* астрафíзік

**astrophysics** [ˌæstrəʊˈfɪzɪks] *n.* астрафíзіка

**astute** [əˈstjuːt] *adj.* **1.** разýмны; празóрлівы **2.** хíтры; кавáрны

**astuteness** [əˈstjuːtnəs] *n.* **1.** разýмнасць; празóрлівасць **2.** хíтрасць; кавáрства

**asunder** [əˈsʌndə] *adv. dated* **1.** у рóзныя бакí; **rush asunder** кíнуцца ў рóзныя бакí; **families torn asunder by a war** сéм'і, раскíданыя ў рóзныя бакí вайнóй **2.** на кавáлкі, на чáсткі; **break/cut asunder** разламáць/разрэзаць на чáсткі

**asylum** [əˈsaɪləm] *n. fml* **1.** прытýлак, прыстáнішча; **political asylum** палітычны прытýлак **2.** *dated* дом для псіхíчна хвóрых

**asymmetric(al)** [ˌeɪsɪˈmetrɪk(l)] *adj.* асіметрычны

**asymmetry** [ˌeɪˈsɪmətri] *n.* асімéтрыя

**asynchronous** [eɪˈsɪnkrənəs] *n. fml* асінхрóнны

**asyndeton** [æˈsɪndɪtən] *n. ling.* асіндэтóн, бяззлýчнікавая сýвязь

**at** [æt, ət] *prep.* **1.** (*для абазначэння месца ў самым агульным сэнсе*) у; на; ля, каля; **at my house** у мянé (дóма); **at the hotel/theatre** у гатэлі/тэáтры; **at the corner/station/meeting** на рагý/стáнцыі/схóдзе; **at the door** ля/каля дзвярэй **2.** (*для абазначэння часу*) у, на; **at 6 o'clock** а шóстай гадзíне; **at the moment** у гэты мóмант; **at dawn** на дóсвітку/зóл(а)ку/на світáнні; **at night** уначы, нóччу; **at first** спачáтку, перш; **at once** адрáзу **3.** (*перад назоўнікам/займеннікам, на які накіравана дзеянне або які з'яўляецца мэтай*) у, на; за; **look/shout at smb.** глядзéць/крычáць на каго-н.; **smile at smb.** усміхáцца камý-н.; *He shot at the bird.* Ён стрэліў у птушку (*і не пацэліў*). **4.** (*пры абазначэнні рэакцыі на што-н.*) з; *I laughed at his jokes.* Я смяяўся з яго жартаў. **5.** (*пры абазначэнні занятку, стану*) у; на; за; **at school** у шкóле; **at table** за сталóм/за ядóй; **at work** на рабóце; *He studied at Oxford.* Ён вучыўся ў Оксфардзе (*ва ўніверсітэце*). **6.** (*пры ўказанні на колькасць, меру, цану, узровень, узрост, хуткасць*) **: at 90° Fahrenheit** пры 90° па Фарэнгéйту; **at an altitude of 1000 feet** на вышынí 1000 фýтаў; **at the age of 60** у 60-гадóвым узрóсце; **at 100 km an hour** з хýткасцю 100 км у гадзíну **7.** (*таксама перадаецца тв. скл.*) **surprised/pleased at his behaviour** здзíўлены/задавóлены ягó павóдзінамі **8.** (*у спалучэннях*) **: at all** наóгул; **to be good/clever at smth./at doing smth.** дóбра ўмéць што-н. рабíць; мець здóльнасці да чагó-н.; *He is good at football.* Ён добра гуляе ў футбол; *She is a genius at chemistry.* У яе выключныя здольнасці да хіміі.

**atavism** [ˈætəvɪzəm] *n.* атавíзм

**atavistic** [ˌætəˈvɪstɪk] *adj. fml* атавістычны; **an atavistic instinct/fear** атавістычны інстынкт/страх

**ataxia, ataxy** [əˈtæksiə, əˈtæksi] *n. med.* атаксíя

**ate** [et, eɪt] *past* → **eat**

**atelier** [əˈtelieɪ] *n.* майстэрня мастакá, стýдыя, атэльé

**atheism** [ˈeɪθiɪzəm] *n.* атэíзм

**atheist** [ˈeɪθiɪst] *n.* атэíст; атэíстка

**atheistic** [ˌeɪθiˈɪstɪk] *adj.* атэістычны

**atherosclerosis** [ˌæθərəʊskləˈrəʊsɪs] *n. med.* атэрасклерóз

**atherosclerotic** [ˌæθərəʊskləˈrɒtɪk] *adj. med.* атэрасклератычны

**athlete** [ˈæθliːt] *n.* **1.** атлéт, спартсмéн; спартсмéнка **2.** *BrE* лёгкаатлéт; лёгкаатлéтка

**athlete's foot** [ˌæθliːtsˈfʊt] *n.* грыбкóвая хварóба на нагáх (*мікоз*)

**athletic** [æθˈletɪk] *adj.* **1.** спартыўны; **athletic competitions** спартыўныя спаборніцтвы **2.** моцны, дужы

**athletics** [æθˈletɪks] *n.* атлетыка; лёгкая атлетыка; заняткі спортам

**at-home**[1] [ətˈhəʊm] *n.* неафіцыйны прыём гасцей

**at-home**[2] [ətˈhəʊm] *adj.* хатні; **at-home clothes** хатняя вопратка; **an at-home job** надомная праца

**athwart** [əˈθwɔːt] *adv., prep. fml* **1.** упоперак; наўскос; *They put a table athwart the doorway.* Яны паставілі стол упоперак дзвярэй. **2.** супраць, супроць; насуперак; *His statement ran athwart what was previously said.* Яго словы супярэчылі таму, што было сказана раней.

**atishoo** [əˈtɪʃuː] *interj. BrE* апчхі!

**Atlantic** [ətˈlæntɪk] *adj.* атлантычны; **an Atlantic liner** трансатлантычны лайнер

**Atlanticism** [ətˈlæntɪsɪzəm] *n.* атлантызм

**atlas** [ˈætləs] *n.* атлас; **a road atlas of Europe** атлас дарог Еўропы; **a world atlas** атлас свету

**ATM** [ˌeɪtiːˈem] *n.* (*скар. ад* **automated teller machine**) банкамат

**ATM card** [ˌeɪtiːˈemkɑːd] *n. AmE* пластыкавая картка (*для атрымання грошай з банкамата*)

**atmosphere** [ˈætməsfɪə] *n.* **1. the atmosphere** атмасфера; **pollution of the atmosphere** забруджванне атмасферы **2.** паветра (*у пакоі, горадзе*); **a stuffy atmosphere** цяжкае паветра **3.** атмасфера (*перан.*); абставіны; сітуацыя; настрой; **a friendly atmosphere** сяброўская атмасфера

**atmospheric** [ˌætməsˈferɪk] *adj.* атмасферны; **atmospheric pollution** атмасфернае забруджванне; **atmospheric pressure** атмасферны ціск

**atmospherics** [ˌætməsˈferɪks] *n. pl.* атмасферныя перашкоды (*пра радыё*)

**atoll** [ˈætɒl] *n.* атол (*каралавы востраў, які мае форму суцэльнага ці разарванага кальца*)

**atom** [ˈætəm] *n.* атам

**atom bomb** [ˈætəmbɒm] *n.* атамная бомба

**atomic** [əˈtɒmɪk] *adj.* атамны; **the atomic age** атамны век; **the atomic bomb** атамная бомба; **atomic energy/power** атамная энергія

**atomic number** [əˌtɒmɪkˈnʌmbə] *n. phys.* атамны парадкавы лік

**atomize,** *BrE* **-ise** [ˈætəmaɪz] *v.* **1.** распыляць **2.** раздрабняць (*на маленькія часткі*); разбіваць на атамы

**atomizer** [ˈætəmaɪzə] *n.* распыляльнік, пульверызатар

**atonal** [eɪˈtəʊnl] *adj. mus.* атанальны

**atonality** [ˌeɪtəʊˈnæləti] *n. mus.* атанальнасць

**atone** [əˈtəʊn] *v. fml* **1.** загладжваць (*віну*) **2. (for)** кампенсаваць, вяртаць (*пра страты*)

**atonement** [əˈtəʊnmənt] *n. fml* **1.** загладжванне (*віны*) **2.** кампенсацыя, пакрыццё страт; **make atonement for** прапанаваць кампенсацыю

**atop** [əˈtɒp] *adv., prep. AmE* (*dated in BrE*) зверху, наверсе, паўзверх; па; над; **a glass of beer with white foam atop** куфель піва з белай пенай зверху

**at-risk** [ətˈrɪsk] *adj.* **: at-risk children** дзеці групы рызыкі

**atrium** [ˈeɪtriəm] *n.* **1.** *archit.* атрыум; крыты порцік **2.** *med.* перадсэрдзе

**atrocious** [əˈtrəʊʃəs] *adj.* **1.** жудасны, страшэнны, жахлівы; **atrocious weather** жахлівае надвор'е; *She speaks English with an atrocious accent.* Яна гаворыць па-англійску са страшэнным акцэнтам. **2.** бязлітасны, люты, жорсткі, зверскі

**atrocity** [əˈtrɒsəti] *n.* лютасць; люты ўчынак; жорсткасць, зверства

**atrophy**[1] [ˈætrəfi] *n.* **1.** *med.* атрафія; **muscular atrophy** атрафія мускулаў **2.** *fml* аслабленне, прытупленне

**atrophy**[2] [ˈætrəfi] *v.* **1.** атрафіравацца **2.** прытупляцца

**atropine** [ˈætrəpɪn] *n. pharm.* атрапін

**attaboy** [ˈætəbɔɪ] *interj. infml* малайчына!; брава!

**attach** [əˈtætʃ] *v.* **1.** прымацоўваць, прыклейваць, прывязваць; **attach a rope to smth.** прывязваць вяроўку да чаго-н. **2. attach (great) importance/significance/value/weight to smth.** надаваць чаму-н. (вялікае) значэнне **3. : attach oneself to smb.** прыстаць, прычапіцца да каго-н. (*перан.*)

**attache** [əˈtæʃeɪ] *n.* аташэ; **a cultural attache** аташэ па культурных сувязях; **a military attache** ваенны аташэ

**attachecase** [əˈtæʃeɪˌkeɪs] *n.* дыпламат (*плоскі партфель*)

**attached** [əˈtætʃt] *adj.* **1.** адданы; прыхільны **2.** прымацаваны; падключаны; далучаны

**attachment** [əˈtætʃmənt] *n.* **1.** прывязанасць, прыхільнасць; любоў; **a child's strong attachment to his parents** любоў дзіцяці да сваіх бацькоў **2.** адданасць, вернасць (*ідэалам, ідэям, справе*) **3.** прыстасаванне, прылада; прыстаўка **4.** прымацоўванне, прымацаванне **5.** прыкамандзіраванне; стажыроўка **6.** *comput.* залучнік (*у электроннай пошце*)

**attack**[1] [əˈtæk] *n.* **(on) 1.** напад, нападзенне; **a series of racist attacks** серыя расісцкіх напа-

даў **2.** ата́ка, наступле́нне; **launch/make/mount an attack** пача́ць штурм, перайсці́ ў наступле́нне **3.** кры́тыка, напа́дкі **4.** *med.* прыпа́дак; пры́ступ (*таксама перан.*); **a heart attack** сардэ́чны пры́ступ; **a migraine attack** пры́ступ мігрэ́ні; **an attack of the giggles** пры́ступ сме́ху **5.** *sport* ата́ка; штурм

**attack²** [əˈtæk] *v.* **1.** напада́ць; *A woman was attacked and robbed by a gang of youths.* Банда падлеткаў напала на жанчыну і абрабавала яе. **2.** атакава́ць, напада́ць; *At dawn the enemy attacked the town.* На досвітку вораг атакаваў горад. **3.** крытыкава́ць, напада́ць (*перан.*); **be under violent attack** быць прадме́там рэ́зкіх напа́дак **4.** напада́ць; шко́дзіць; *Locusts attacked the crops.* На пасевы напала саранча. **5.** энергі́чна бра́цца (*за што-н.*); нава́львацца **6.** *sport* атакава́ць, штурмава́ць

**attacker** [əˈtækə] *n.* той, хто напада́е

**attagirl** [ˈætəgɜːl] *interj.* малайчы́на!; бра́ва!

**attain** [əˈteɪn] *v.* **1.** дабіва́цца, дасяга́ць, здабыва́ць; **attain a goal** дасягну́ць мэ́ты **2.** *fml* дасяга́ць (*пра ўзрост, узровень і да т.п.*); **attain the age of 100** дажы́ць да ста гадо́ў

**attainable** [əˈteɪnəbl] *adj.* дасяга́льны, дася́жны; **attainable goals/objectives/targets** дасяга́льныя мэ́ты

**attainder** [əˈteɪndə] *n. hist., law* стра́та право́ў і маёмасці

**attainment** [əˈteɪnmənt] *n. fml* **1.** дасягне́нне; **the attainment of the target** дасягне́нне мэ́ты **2.** (*звыч. pl.*) **attainments** дасягне́нні; ве́ды; кваліфіка́цыя; *His scientific attainments are impressive.* Яго навуковыя дасягненні ўражваюць.

**attempt¹** [əˈtempt] *n.* **1.** спро́ба, нама́ганне; **make an attempt** спрабава́ць; *They made no attempt to escape.* Яны нават не зрабілі спробы ўцячы. **2.** зама́х (*на жыццё*); *Someone has made an attempt on the President's life.* На жыццё прэзідэнта быў зроблены замах.

**attempt²** [əˈtempt] *v.* спрабава́ць; нама́гацца, стара́цца; сі́ліцца; *I will attempt to answer all your questions.* Я паспрабую адказаць на ўсе вашы пытанні.

**attempted** [əˈtemptɪd] *adj.* **: attempted murder** зама́х на жыццё; **attempted robbery** спро́ба зрабіць крадзе́ж

**attend** [əˈtend] *v.* **1.** прысу́тнічаць, быць; наве́дваць (*пра мітынг, канцэрт, сход, цырымонію і да т.п.*); *The meeting will be well attended.* На сходзе будзе шмат людзей; *Our children attend the same school.* Нашы дзеці ходзяць у адну школу. **2. (to)** *fml* быць ува́жлівым; *He hadn't been attending during the lesson.* Ён не быў уважлівым на ўроку. **3. (to)** ру́піцца, дбаць; **attend to the education of one's children** дбаць пра адука́цыю сваі́х дзяце́й **4.** догляда́ць (*хворага*); *Two nurses attended to his needs constantly.* Дзве медсястры ўвесь час даглядалі яго. **5.** *fml* суправаджа́ць; *The President was attended by several members of the staff.* Прэзідэнта суправаджалі некалькі чалавек з яго каманды. **6. (on/upon; to)** прыслуго́ўваць; абслуго́ўваць (*пакупніка, кліента*)

**attendance** [əˈtendəns] *n.* **1.** прысу́тнасць; наве́дванне (*школы, лекцый і да т.п.*); **high/low attendance** до́брае/дрэ́ннае наве́дванне (заня́ткаў); *Attendance at these lectures is not compulsory.* Прысутнічаць на гэтых лекцыях неабавязкова. **2.** прысу́тныя (*студэнты, слухачы і да т.п.*); *The attendance at the meeting was over 300.* На мітынгу прысутнічала больш за 300 чалавек. ♦ **be in attendance** *fml* 1) прысу́тнічаць (*на мерапрыемстве*) 2) суправаджа́ць; **dance attendance** танцава́ць вако́л каго́-н. (*быць паслужлівым*); **take attendance** *AmE* правяра́ць

**attendant¹** [əˈtendənt] *n.* **1.** асо́ба, яка́я абслуго́ўвае або́ дапамага́е; **a cloakroom attendant** гардэро́бшчык; гардэро́бшчыца; **a medical attendant** медсястра́ **2.** суправаджа́льнік; суправаджа́льніца

**attendant²** [əˈtendənt] *adj. fml* які́ суправаджа́е; **attendant circumstances** суправаджа́льныя акалі́чнасці; **attendant problems** прабле́мы, які́я суправаджа́юць (*якую-н. справу*)

**attendee** [ˌætenˈdiː] *n. AmE* прысу́тны (*на мітынгу, сходзе і да т.п.*)

**attender** [əˈtendə] *n. BrE* той, хто наве́двае (*заняткі, школу і да т.п.*)

**attention** [əˈtenʃn] *n.* **1.** ува́га; ува́жлівасць; **call/draw smb.'s attention to smth.** прыцягну́ць ува́гу каго́-н. да чаго́-н., звярну́ць ува́гу каго́-н. на што-н.; **pay attention to smb./smth.** звярну́ць ува́гу на каго́-н./што-н.; *Attention, please!* Увага! **2.** вялі́кая ўва́га; інтарэ́с; ціка́васць; **attract attention** выкліка́ць ціка́васць; **be the centre of attention** быць у цэ́нтры ўва́гі **3.** до́гляд, нагля́д; кло́пат; *He was in need of medical attention.* Яму патрабаваўся медыцынскі догляд. **4.** *mil.* (*у граматычным значэнні выклічніка*) смі́рна! (*каманда*)

**attentive** [əˈtentɪv] *adj.* **1.** ува́жны, ува́жлівы **2.** клапатлі́вы, чу́лы **3.** ве́тлівы, даліка́тны

**attenuate** [əˈtenjueɪt] *v. fml* аслабля́ць, змянша́ць (*сілу, уздзеянне і да т.п.*)

**attest** [əˈtest] *v. fml* **1.** свéдчыць; быць дóказам **2.** пасвéдчыць, засвéдчыць; пацвярджáць, сцвярджáць; **attest a signature** засвéдчыць пóдпіс

**attestation** [ˌætesˈteɪʃn] *n. fml* **1.** свéдчанне; пацвярджэ́нне, дóказ (*чаго-н.*) **2.** засвéдчанне, пацвярджэ́нне (*подпісу; у судзе і да т.п.*)

**attic** [ˈætɪk] *n.* гарá, гары́шча; мансáрда

**attire**[1] [əˈtaɪə] *n. fml* убóр, убрáнне, стрóі; **dressed in formal evening attire** апрáнуты ў стрóгі вячэ́рні ўбóр

**attire**[2] [əˈtaɪə] *v. fml* апранáць; апранáцца

**attitude** [ˈætɪtjuːd] *n.* стáўленне, аднóсіны, пазíцыя

**attn.** (*пісьмовае скар. ад* **for the attention of**) да ўвáгі

**attorney** [əˈtɜːni] *n.* **1.** *law* атарнéй; адвакáт; павéраны **2.** давéраны, давéраная асóба

**Attorney General** [əˌtɜːniˈdʒenrəl] *n. law* **1.** *BrE* генерáльны атарнéй (*у Вялікабрытаніі*) **2.** міні́стр юсты́цыі (*у ЗША*)

**attract** [əˈtrækt] *v.* **1.** (*звыч. passive*) вáбіць, захапля́ць, цікáвіць; *I had always been attracted by the idea of working abroad.* Мне заўсёды было цікава папрацаваць за мяжой. **2.** прыця́гваць (*таксама перан.*); *The warm damp air attracts a lot of mosquitoes.* Цёплае вільготнае паветра прыцягвае мноства маскітаў; *She tried to attract the attention of the waiter.* Яна зрабіла спробу прыцягнуць увагу афіцыянта. **3.** *phys.* прыця́гваць; *A magnet attracts iron.* Магніт прыцягвае жалеза.

**attraction** [əˈtrækʃn] *n.* **1.** прывáбнасць, прыцягáльнасць (*асабліва сексуальная*) **2.** славу́тасць, знакамíтае мéсца; **tourist attractions** славу́тасці/выдáтныя мясціны, якíя прывáбліваюць туры́стаў **3.** цікáвінка; забáва; эфéктны ну́мар прагрáмы **4.** *phys.* прыцягнéнне, прыцяжэ́нне; **gravitational/magnetic attraction** зямнóе/магнíтнае прыцяжэ́нне

**attractive** [əˈtræktɪv] *adj.* **1.** прывáбны, прыгóжы, прыцягáльны (*асабліва сексуальна*); **an attractive woman** прывáбная жанчы́на **2.** атракцы́йны, захапля́льны (*пра рэчы, мясціны і да т.п.*)

**attractiveness** [əˈtræktɪvnəs] *n.* прывáбнасць, прыцягáльнасць

**attribute** [ˈætrɪbjuːt] *n.* **1.** прыкмéта; уласцíвасць; характэ́рная ры́са; **2.** *ling.* азначэ́нне; атрыбу́т

**attribute** [əˈtrɪbjuːt] *v.* прыпíсваць, надавáць; *This play is usually attributed to Shakespeare.* Гэта п'еса звычайна прыпісваецца Шэкспіру.

**attribution** [ˌætrɪˈbjuːʃn] *n.* прыпíсванне, прыдавáнне, надавáнне; прыналéжнасць

**attributive** [əˈtrɪbjətɪv] *adj. ling.* атрыбуты́ўны

**attrition** [əˈtrɪʃn] *n. fml* **1.** знясíленне; **a war of attrition** вайнá, разлíчаная на знясíленне працíўніка **2.** знос, знóшванне; марнавáнне; трáта (*прыродных рэсурсаў*)

**attune** [əˈtjuːn] *v.* **(to) 1.** настрóйваць, прывóдзіць у сугу́чнасць **2.** прыстасóўвацца (*да шуму*)

**ATV** [ˌeɪtiːˈviː] (*скар. ад* **all-terrain vehicle**) усюдыхóд

**atypical** [ˌeɪˈtɪpɪkl] *adj.* атыпíчны

**aubergine** [ˈəʊbəʒiːn] *n.* баклажáн

**auburn** [ˈɔːbən] *adj.* руды́, каштáнавы, ры́жакары́чневы (*пра колер валасоў*)

**auction** [ˈɔːkʃn] *n.* аўкцыён

**auctioneer** [ˌɔːkʃəˈnɪə] *n.* аўкцыянíст

**audacious** [ɔːˈdeɪʃəs] *adj. fml* **1.** адвáжны, смéлы; **an audacious pilot** адвáжны пілóт **2.** нахáбны, гру́бы

**audacity** [ɔːˈdæsəti] *n.* **1.** адвáга, смéласць **2.** нахáбства

**audibility** [ˌɔːdəˈbɪləti] *n.* чу́тнасць; гу́чнасць

**audible** [ˈɔːdəbl] *adj.* чу́тны; які́ гучы́ць

**audience** [ˈɔːdiəns] *n.* **1.** пу́бліка; гледачы́; слухачы́; аўдытóрыя **2.** аўдыéнцыя

**audio tape** [ˈɔːdiəʊteɪp] *n.* плёнка гуказáпісу

**audio-visual** [ˌɔːdiəʊˈvɪʒuəl] *adj.* аўдыявізуáльны

**audit**[1] [ˈɔːdɪt] *n.* аўды́т, правéрка, рэвíзія

**audit**[2] [ˈɔːdɪt] *v.* **1.** правярáць, рэвізавáць **2.** быць вóльным слухачóм (*ва ўніверсітэце, у каледжы*)

**audition**[1] [ɔːˈdɪʃn] *v.* праслухóўванне (*спевака, акцёра*), слу́ханне

**audition**[2] [ɔːˈdɪʃn] *n.* праслухóўваць (*спевака, акцёра*)

**auditor** [ˈɔːdɪtə] *n.* **1.** аўды́тар, рэвізóр, фінáнсавы кантралёр **2.** вóльны слухáч (*каледжа, універсітэта*)

**auditoria** [ˌɔːdɪˈtɔːriə] *pl.* → **auditorium**

**auditorium** [ˌɔːdɪˈtɔːriəm] *n.* (*pl.* **auditoriums** *or* **auditoria**) глядзéльная зáла; канцэ́ртная зáла; аўдытóрыя (*памяшканне*)

**auditory** [ˈɔːdətri] *adj.* слыхавы́; **the auditory nerve** слыхавы́ нерв

**auger**[1] [ˈɔːgə] *n.* свéрдзел

**auger**[2] [ˈɔːgə] *v.* свідравáць

**augment** [ɔːgˈment] *v. fml* павялíчваць, пабóльшваць (*аб'ём, памер, колькасць і г.д.*)

**augmentation** [ˌɔːgmenˈteɪʃn] *n.* павелічэ́нне; прырóст

**augur**[1] [ˈɔːgə] *n.* **1.** *hist.* аўгу́р (*у старажытным Рыме*) **2.** прарóк; прадказáльнік

**augur**[2] [ˈɔːgə] *v. fml* прадкáзваць; прадвяшчáць; **augur well/badly** быць дóбрай/дрэ́ннай прыкмéтай

**augury** [ˈɔːɡjʊri] *n. lit.* прадказáнне; прадвéсце; прыкмéта
**Aug.** (*пісьмовае скар. ад* **August**) жнíвень
**August** [ˈɔːɡəst] *n.* жнíвень
**august** [ɔːˈɡʌst] *n. fml* вéлічны; павáжны
**auk** [ɔːk] *n. zool.* гагáрка
**aunt** [ɑːnt] *n.* **1.** цётка (*бацькава або матчына сястра; жонка дзядзькі*) **2.** *infml* цёця, цётка
**auntie, aunty** [ˈɑːnti] *n. infml* цётачка, цёця
**aura** [ˈɔːrə] *n.* áўра (*таксама перан.*); атмасфéра (*перан.*)
**aural** [ˈɔːrəl] *adj.* **1.** вушны́ **2.** слыхавы́; **aural and visual images** слыхавы́я і зрóкавыя вóбразы; **aural comprehension tests** тэ́сты на слыхавóе ўспрымáнне
**aureate** [ˈɔːriət] *adj. fml* залаты́; залачóны; залацíсты
**aureole** [ˈɔːriəʊl] *n. lit.* арэóл; німб
**auricle** [ˈɔːrɪkl] *n. anat.* **1.** перадсэ́рдзе **2.** вóнкавае вýха
**aurochs** [ˈɔːrɒks] *n.* (*pl.* **aurochs**) *zool.* **1.** зубр **2.** тур
**auspices** [ˈɔːspɪsɪz] *n. pl.* **: under the auspices of smb./smth.** пад эгíдай кагó-н./чагó-н.
**auspicious** [ɔːˈspɪʃəs] *adj. fml* спрыя́льны; памы́сны, удáлы; **an auspicious start** памы́сны пачáтак
**austere** [ɒˈstɪə] *adj.* **1.** прóсты (*пра стыль*) **2.** стрóгі, сурóвы **3.** аскеты́чны
**austerity** [ɒˈsterəti] *n.* стрóгасць, сурóвасць; аскеты́чнасць
**Australian**[1] [ɒˈstreɪliən] *n.* аўстралíец; аўстралíйка
**Australian**[2] [ɒˈstreɪliən] *adj.* аўстралíйскі
**Austrian**[1] [ˈɒstriən] *n.* аўстры́ец; аўстры́йка
**Austrian**[2] [ˈɒstriən] *adj.* аўстры́йскі
**autarky, autarchy** [ˈɔːtɑːki] *n.* аўтаркíя
**authentic** [ɔːˈθentɪk] *adj.* **1.** аўтэнты́чны; арыгінáльны **2.** праўдзíвы, прáвільны **3.** сапрáўдны
**authenticate** [ɔːˈθentɪkeɪt] *v.* пацвярджáць аўтэнты́чнасць; пакáзваць сапрáўднасць
**authenticity** [ˌɔːθenˈtɪsəti] *n.* аўтэнты́чнасць; сапрáўднасць
**author** [ˈɔːθə] *n.* **1.** áўтар; пісьмéннік; **author's rights** áўтарскае прáва **2.** твóрца, ініцыя́тар
**authoritarian** [ɔːˌθɒrɪˈteəriən] *adj.* аўтарытáрны, недэмакраты́чны
**authoritarianism** [ɔːˌθɒrɪˈteəriənɪzəm] *n.* аўтарытары́зм
**authoritative** [ɔːˈθɒrətətɪv] *adj.* **1.** улáдны; **an authoritative tone (of voice)** улáдны тон **2.** аўтарытэ́тны, вáрты давéру (*пра крыніцы*) **3.** уплывóвы
**authority** [ɔːˈθɒrəti] *n.* **1.** улáда, паўнамóцтва **2.** *pl.* **authorities** улáды, начáльства **3.** аўтарытэ́т, аўтарытэ́тная асóба
**authorization** [ˌɔːθəraɪˈzeɪʃn] *n.* афіцы́йны дазвóл; сáнкцыя
**authorize** [ˈɔːθəraɪz] *v.* давáць дазвóл/прáва; дазваля́ць; санкцыянавáць
**authorship** [ˈɔːθəʃɪp] *v.* áўтарства
**autism** [ˈɔːtɪzəm] *n. med.* аўты́зм
**auto** [ˈɔːtəʊ] *n. AmE* аўтамабíль, машы́на
**autobiographer** [ˌɔːtəbaɪˈɒɡrəfə] *n.* аўтабіёграф
**autobiographical** [ˌɔːtəˌbaɪəˈɡræfɪkl] *adj.* аўтабіяграфíчны
**autobiography** [ˌɔːtəbaɪˈɒɡrəfi] *n.* аўтабіягрáфія
**autocephalous** [ˌɔːtəʊˈsefələs] *eccl.* аўтакефáльны
**autoclave** [ˈɔːtəʊkleɪv] *n.* аўтаклáў
**autocracy** [ɔːˈtɒkrəsi] *n.* **1.** аўтакрáтыя, абсалю́тная ўлáда **2.** аўтакраты́чная краíна
**autocrat** [ˈɔːtəkræt] *n.* аўтакрáт; самадзéржац
**autocratic** [ˌɔːtəˈkrætɪk] *adj.* аўтакраты́чны
**autocross** [ˈɔːtəʊkrɒs] *n.* аўтакрóс, аўтапрабéг
**autocue** [ˈɔːtəʊkjuː] *n.* тэлесуфлёр
**autograph**[1] [ˈɔːtəɡrɑːf] *n.* аўтóграф
**autograph**[2] [ˈɔːtəɡrɑːf] *v.* стáвіць аўтóграф; падпíсваць
**autoimmune** [ˌɔːtəʊɪˈmjuːn] *adj. med.* аўтаімýнны
**automaker** [ˈɔːtəʊmeɪkə] *n. AmE* вытвóрца аўтамабíляў (*кампанія*)
**automat** [ˈɔːtəmæt] *n. AmE* рэстарáн-аўтамáт
**automate** [ˈɔːtəmeɪt] *v.* (*звыч. passive*) аўтаматызавáць
**automated teller machine** [ˌɔːtəmeɪtɪdˈteləməʃiːn] *n.* банкамáт
**automatic** [ˌɔːtəˈmætɪk] *n.* **1.** аўтаматы́чная збрóя **2.** *BrE* машы́на з аўтаматы́чнай трансмíсіяй
**automatic** [ˌɔːtəˈmætɪk] *adj.* **1.** аўтаматы́чны; **automatic doors** аўтаматы́чныя дзвéры; **an automatic rifle** аўтаматы́чнае ружжó **2.** неўсвядóмлены, машынáльны, міжвóльны
**automation** [ˌɔːtəˈmeɪʃn] *n.* аўтаматызáцыя
**automaton** [ɔːˈtɒmətən] *n.* рóбат, аўтамáт (*таксама перан.*)
**automobile** [ˈɔːtəməbiːl] *n. AmE* аўтамабíль, аўтамашы́на; **the automobile industry** аўтамабíльная індýстрыя
**autonomous** [ɔːˈtɒnəməs] *adj.* **1.** аўтанóмны (*пра краіну, рэгіён і да т.п.*) **2.** самастóйны (*пра чалавека*)
**autonomy** [ɔːˈtɒnəmi] *n.* **1.** аўтанóмія, самакіравáнне; незалéжнасць **2.** самастóйнасць (*пра чалавека*)
**autopilot** [ˈɔːtəʊpaɪlət] *n.* аўтапілóт
**autopsy** [ˈɔːtɒpsi] *n.* аўтапсíя, разразáнне трýпа

**autumn** [ˈɔːtəm] *n.* во́сень; **in the autumn of 2008** во́сенню 2008; **in early/late autumn** ра́нняй/по́зняй во́сенню; **autumn rains** во́сеньскія дажджы́

**autumnal** [ɔːˈtʌmnəl] *adj.* во́сеньскі, асе́нні; **autumnal colours** во́сеньскія фа́рбы

**auxiliary**[1] [ɔːgˈzɪliəri] *n.* **1.** *ling.* дапамо́жны дзеясло́ў **2.** памага́ты; памо́чнік; памо́чніца

**auxiliary**[2] [ɔːgˈzɪliəri] *adj.* дапамо́жны; **auxiliary nurses/workers** дапамо́жныя медсёстры/рабо́чыя; **an auxiliary verb** *ling.* дапамо́жны дзеясло́ў

**avail** [əˈveɪl] *n.* **: be of little/no avail** *fml* быць непрыда́тным; **to little/no avail** *fml* быць ма́рным/беспаспяхо́вым

**availability** [əˌveɪləˈbɪləti] *n.* ная́ўнасць, досту́пнасць

**available** [əˈveɪləbl] *adj.* ная́ўны, досту́пны

**avalanche** [ˈævəlɑːnʃ] *n.* лаві́на (*таксама перан.*)

**avant-garde** [ˌævɒ̃ ˈgɑːd] *n.* **the avant-garde** аванга́рд (*пра мастацтва, музыку, літаратуру*)

**avarice** [ˈævərɪs] *n. fml* пра́гнасць, ску́пасць, сква́пнасць, хці́васць

**avaricious** [ˌævəˈrɪʃəs] *adj. fml* пра́гны, скупы́, сква́пны, хці́вы

**Ave., Av.** *AmE* (*пісьмовае скар. на адрасе ад* **Avenue**) авеню́, ву́ліца

**avenge** [əˈvendʒ] *v.* по́мсціць, адпла́чваць; адпо́мсціць

**avengeful** [əˈvendʒfəl] *adj.* по́мслівы

**avenger** [əˈvendʒə] *n.* мсці́вец; мсці́віца

**avenue** [ˈævənjuː] *n.* **1.** авеню́, шыро́кая ву́ліца, праспе́кт **2.** але́я, авеню́ **3.** шлях (*перан.*); **an avenue to success** шлях да по́спеху

**aver** [əˈvɜː] *v. fml* сцвярджа́ць, упэ́ўніваць, запэ́ўніваць

**average**[1] [ˈævərɪdʒ] *n.* сярэ́дняя велічыня́; сярэ́дняе; **above/below average** вышэ́й/ніжэ́й сярэ́дняга; **on average** у сярэ́днім

**average**[2] [ˈævərɪdʒ] *adj.* **1.** сярэ́дні; **an average cost/price** сярэ́дняя цана́ **2.** нарма́льны, звыча́йны; **children of above/below average intelligence** дзе́ці з інтэле́ктам вышэ́й/ніжэ́й сярэ́дняга

**average**[3] [ˈævərɪdʒ] *v.* выво́дзіць сярэ́дні лік

**averse** [əˈvɜːs] *adj.* неахво́тны, які́ не жада́е

**aversion** [əˈvɜːʃn] *n.* агі́да; антыпа́тыя

**avert** [əˈvɜːt] *v.* **1.** адхіля́ць, прадухіля́ць **2.** адво́дзіць (*вочы, твар*)

**aviary** [ˈeɪviəri] *n.* пту́шнік

**aviation** [ˌeɪviˈeɪʃn] *n.* авія́цыя

**aviator** [ˈeɪvieɪtə] *n.* авія́тар, піло́т, лётчык; лётчыца

**avid** [ˈævɪd] *adj.* прагаві́ты, пра́гны; заўзя́ты; **an avid reader/collector** заўзя́ты чыта́ч/калекцыяне́р

**avidity** [əˈvɪdəti] *n.* пра́га, пра́гнасць; **eat with avidity** пра́гна е́сці; **read with avidity** чыта́ць запо́ем

**avionics** [ˌeɪviˈɒnɪks] *n.* авіяцы́йная радыёэлектро́ніка

**avocado** [ˌævəˈkɑːdəʊ] *n. bot.* авака́да

**avocation** [ˌævəʊˈkeɪʃn] *n.* пабо́чны заня́так; хо́бі

**avoid** [əˈvɔɪd] *v.* **1.** пазбяга́ць, уніка́ць **2.** ухіля́цца; абміна́ць

**avoidance** [əˈvɔɪdəns] *n.* **(of )** абміна́нне; ухіле́нне

**avow** [əˈvaʊ] *v. fml* прызнава́цца, шчы́ра каза́ць

**avowal** [əˈvaʊəl] *v. fml* прызна́нне; **an avowal of love** прызна́нне ў каха́нні

**avuncular** [əˈvʌŋkjələ] *adj. fml* добразычлі́вы, дружалю́бны

**await** [əˈweɪt] *v. fml* чака́ць; *He is in custody awaiting trial*. Ён знаходзіцца пад вартай і чакае судовага працэсу; *A warm welcome awaits all our guests*. Цёплы прыём чакае ўсіх нашых гасцей.

**awake**[1] [əˈweɪk] *adj.* **1.** які́ не спіць; **be awake** не спаць; **be wide/fully awake** зусі́м не спаць; зусі́м прачну́ўшыся **2. : be awake to smth.** усведамля́ць (*небяспеку, неабходнасць*)

**awake**[2] [əˈweɪk] *v.* **(awoke, awoken)** *fml* **1.** будзі́ць; *His voice awoke the sleeping child.* Яго голас разбудзіў дзіця, якое спала. **2.** прачына́цца **3.** абуджа́ць, узбуджа́ць; **awake interest in smb.** абудзі́ць ціка́васць у каго́-н.

**awaken** [əˈweɪkən] *v. fml* **1.** прачына́цца, прачну́цца (*ад сну*) **2.** абуджа́ць; выкліка́ць (*пра эмоцыі*); **awaken to smth.** пача́ць усведамля́ць што-н. (*страту чаго-н.*)

**awakening** [əˈweɪkənɪŋ] *n.* **1.** усведамле́нне; **rude awakening** го́ркае расчарава́нне **2.** абуджэ́нне; ціка́васць, інтарэ́с

**award**[1] [əˈwɔːd] *n.* **1.** узнагаро́да **2.** прэ́мія **3.** кампенса́цыя **4.** грант

**award**[2] [əˈwɔːd] *v.* **1.** узнагаро́джваць **2.** прысуджа́ць, вызнача́ць (*суму грошай*)

**awardee** [əwɔːˈdiː] *n.* узнагаро́джаны; атрыма́льнік прэ́міі

**aware** [əˈweə] *adj.* **: be aware** ве́даць, усведамля́ць; разуме́ць; *He was well aware of the problem.* Ён добра ўсведамляў праблему.

**awareness** [əˈweənəs] *n.* усведамле́нне

**awash** [əˈwɒʃ] *adj.* **(with) 1.** пакры́ты вадо́й **2.** напо́ўнены, перапо́ўнены; *The city is awash with drugs*. Горад перапоўнены наркотыкамі.

**away**[1] [əˈweɪ] *adj.* **: be away (from)** адсу́тнічаць; *Sorry, he's away*. Прабачце, яго няма; *She was away from work for a week*. Яна не была на працы тыдзень.

**away**[2] [əˈweɪ] *adv.* **1.** на адле́гласці ад; **far away** далёка **2.** *абазначае аддаленне*; **run away** уцяка́ць ♦ **(do) away with** *lit*. пако́нчыць з (*чым-н./кім-н.*)

**awe** [ɔː] *n.* глыбо́кая паша́на і страх; здзіўле́нне; захапле́нне

**awe** [ɔː] *v. fml* (*звыч. passive*) напаўня́цца стра́хам

**awesome** [ˈɔːsəm] *adj.* жахлі́вы

**awful** [ˈɔːfl] *adj.* **1.** жахлі́вы, жу́дасны, стра́шны, страшэ́нны; **the awful horrors of war** жа́хі вайны́ **2.** *infml* ве́льмі непрые́мны; страшэ́нны; надзвыча́йны

**awfully** [ˈɔːfli] *adv.* страшэ́нна; ве́льмі; мо́цна

**awhile** [əˈwaɪl] *adv. fml* хвілі́нку, хвілі́начку

**awkward** [ˈɔːkwəd] *adj.* **1.** няёмкі **2.** нязгра́бны, няўме́лы

**awkwardness** [ˈɔːkwədnəs] *n.* нязгра́бнасць, няўклю́днасць

**awl** [ɔːl] *n.* шы́ла

**awning** [ˈɔːnɪŋ] *n.* наве́с; тэнт

**awoke** [əˈwəʊk] *past* → **awake**

**awoken** [əˈwəʊkən] *p.p.* → **awake**

**awry**[1] [əˈraɪ] *adj.* крывы́, перакры́ўлены

**awry**[2] [əˈraɪ] *adv.* кры́ва, набо́к

**ax**[1] [æks] *AmE* = **axe**[1]

**ax**[2] [æks] *AmE* = **axe**[2]

**axe**[1] [æks] *n.* **1.** сяке́ра, тапо́р **2. the axe** *infml* звальне́нне

**axe**[2] [æks] *v.* **1.** скарача́ць бюджэ́тнае фінансава́нне **2.** звальня́ць, скарача́ць **3.** забіва́ць сяке́рай (*каго-н.*)

**axel** [ˈæksl] *n.* а́ксель (*у фігурным катанні*)

**axes** [ˈæksiːz] *pl.* → **axis**

**axial** [ˈæksiəl] *adj.* во́севы

**axiology** [ˌæksɪˈɒlədʒi] *philos*. аксіяло́гія

**axiom** [ˈæksiəm] *n.* аксіёма

**axiomatic** [ˌæksiəˈmætik] *adj.* аксіяматы́чны

**axis** [ˈæksɪs] *n.* (*pl.* **axes**) вось (*у розных знач.*)

**ayatollah** [ˌaɪəˈtɒlə] *n. relig.* аятала́

**aye** [aɪ] *n., interj.* голас «за»; так; *The ayes have it*. Большасць галасоў – «за».

**azalea** [əˈzeɪliə] *n. bot.* аза́лія

**Azerbaijan** [ˌɑːzəbaɪˈdʒɑːn] *adj.* азербайджа́нскі

**Azerbaijani** [ˌɑːzəbaɪˈdʒɑːni] *n.* **1.** азербайджа́нец; азербайджа́нка; **the Azerbaijanis** азербайджа́нцы **2.** азербайджа́нская мо́ва

**azimuth** [ˈæʒɪməθ] *n. astron*. а́зімут

**azote** [əzˈəʊt] *chem*. азо́т

**Aztec** [ˈæʒtek] *n.* ацтэ́к (*індзеец племені ацтэкаў*)

**azure**[1] [ˈæʒə] *n.* блакі́т, све́тла-сі́ні ко́лер

**azure**[2] [ˈæʒə] *adj.* блакі́тны

**azygous** [ˈæzɪgəs] *anat., biol*. няпа́рны

## Bb

**B, b** [biː] *n. 2-я літара англійскага алфавіта*

**B**[1] [biː] *n. mus.* но́та «сі»

**B**[2] [biː] *n.* адзна́ка «до́бра»; *She got* (*a*) *B in/for geography*. Яна атрымала «добра» па геаграфіі.

**b.** (*пісьмовае скар. ад* **born**) нарадзі́ўся; нарадзі́лася; *Emily Dickinson, b. 1830*. Эмілі Дыкінсан, нар. 1830.

**BA** [ˌbiːˈeɪ] *n.* (*скар. ад* **Bachelor of Arts**) бакала́ўр гуманіта́рных наву́к

**baa**[1] [bɑː] *n.* бляя́нне (*авечак, ягнят*)

**baa**[2] [bɑː] *v.* бляя́ць (*пра авечак, ягнят*)

**baba** [ˈbɑːbɑː] *n.* ро́мавая ба́ба

**babble**[1] [ˈbæbl] *n.* **1.** балбата́нне, балбатня́; *I can't stand the babble of my neighbours*. Я цярпець не магу балбатню маіх суседзяў. **2.** лапата́нне

**babble**[2] [ˈbæbl] *v.* **1.** балбата́ць **2.** лапата́ць **3.** цурча́ць, цурчэ́ць (*пра ваду*)

**babbler** [ˈbæblə] *n.* балбату́н; балбату́ха; лапату́н; лапату́ха; марнасло́ў

**babe** [beɪb] *n.* **1.** *dated* дзіця́, дзіцё, немаўля́ **2.** *slang* бэ́йбі (*у звароце да дзяўчыны*) **3.** *infml* красу́ня ♦ **babes in the wood** даве́рлівыя лю́дзі, наі́ўныя лю́дзі

**babel** [ˈbeɪbl] *n. fml* неразбяры́ха; шум; гам; *What a babel!* Якая неразбярыха! ♦ **the tower of Babel** вавіло́нская ве́жа; вавіло́нскае стоўпатварэ́нне

**baboon** [bəˈbuːn] *n. zool.* бабу́ін, павія́н

**baby**[1] [ˈbeɪbi] *n.* **1.** дзіця́, дзіцё, немаўля́ **2.** *infml* са́мы мало́дшы (*у сям'і*); **mother's baby** ма́мчын сыно́к **3.** інфанты́льны чалаве́к; *Don't be such a baby!* Хопіць дзяцініцца! **4.** (*у звароту*) дзе́тка, мало́е ♦ **leave smb. holding the baby** *infml* перакла́дваць на каго́-н. адка́знасць; **throw the baby out with the bathwater** *infml* вы́плюхнуць дзіцё ра́зам з вадо́ю

**baby**[2] [ˈbeɪbi] *adj.* **1.** дзіця́чы; **baby clothes** адзе́нне для немаўля́т **2.** мале́нькі; **a baby elephant** сланяня́, сланянё; **baby carrots** малада́я мо́рква

**baby**[3] [ˈbeɪbi] *v.* абыхо́дзіцца з кім-н. як з дзіцём, ня́ньчыцца

**baby boom** [ˈbeɪbiˌbuːm] *n.* бэ́йбі-бу́м, рэ́зкі рост нараджа́льнасці, вы́бух нараджа́льнасці

**baby boomer** [ˈbeɪbiˌbuːmə] *n.* дзіця́, наро́джанае падча́с узды́му нараджа́льнасці

**baby buggy** [ˈbeɪbiˌbʌgi] *n. BrE, dated* дзіця́чая каля́ска

**baby carriage** [ˈbeɪbiˌkærɪdʒ] *n. AmE* дзіця́чая каля́ска

**babyhood** [ˈbeɪbihʊd] *n.* ра́нняе дзяці́нства, мале́нства

**babyish** [ˈbeɪbiɪʃ] *adj. derog.* дзіця́чы, про́сты; *It's a babyish problem.* Гэта дзіцячая праблема.

**Babylonian** [ˌbæbɪˈləʊniən] *adj.* **1.** вавіло́нскі **2.** распу́сны; разбэ́шчаны **3.** раско́шны, шыко́ўны

**babysit** [ˈbeɪbisɪt] *v.* **(babysat)** даглада́ць чужы́х дзяце́й; *She regularly babysits for us.* Яна заўсёды даглядае нашых дзяцей, калі нас няма дома.

**babysitter** [ˈbeɪbisɪtə] *n.* ня́нька, яка́я даглада́е дзяце́й за пла́ту

**babysitting** [ˈbeɪbisɪtɪŋ] *n.* **: do some babysitting** даглада́ць чужы́х дзяце́й за плату́

**baby talk** [ˈbeɪbiˌtɔːk] *n.* дзіця́чае лепята́нне; сюсю́канне (*дарослых*)

**baccalaureate** [ˌbækəˈlɔːriət] *n.* бакалаўрэа́т; ступе́нь бакала́ўра

**Bacchus** [ˈbækəs] *n. myth.* Ба́хус (*бог вінаробства*); **a lover of Bacchus** любіцель вы́піць ♦ **Bacchus has drowned more men than Neptune.** Бахус утапіў больш людзей, чым Нептун.

**bachelor** [ˈbætʃələ] *n.* **1.** халасця́к; **a confirmed bachelor** зацня́ты/перакана́ны халасця́к **2. Bachelor** бакала́ўр; **a Bachelor's degree** ступе́нь бакала́ўра; **a Bachelor of Arts** бакала́ўр гуманіта́рных наву́к; **a Bachelor of Education** бакала́ўр педагагі́чных наву́к

**bachelorhood** [ˈbætʃələhʊd] *n.* халасця́цкае жыццё

**bacilli** [bəˈsɪlaɪ] *pl.* → **bacillus**

**bacillus** [bəˈsɪləs] *n.* (*pl.* **bacilli**) бацы́ла

**back¹** [bæk] *n.* **1.** спі́на, пле́чы; *He stood with his back to the door.* Ён стаяў спінай да дзвярэй. **2.** спінны́ хрыбе́т; пазвано́чнік; **a sharp pain in the back** во́стры боль у спі́не **3.** за́дняя ча́стка (*чаго-н.*), тыл; **the back of the head** патыліца; **the back of a chair** спі́нка крэ́сла; **at the back** ззаду; **at the back of the house** за до́мам; **a room in the back of the house** за́дні пако́й **4.** адваро́тны бок (*чаго-н.*); **see on the back** глядзі́ на другі́м баку́ (*памета*) **5.** *sport* абаро́нца; **a half back** паўабаро́нца ♦ **at/in the back of the mind** наўме́, у ду́мках, у галаве́; **the back of beyond** *infml* край све́ту, глыбінка, глухама́нь; **behind smb.'s back** упо́тай, спадцішка́; **with one's back to the wall** *infml* у адча́йным стано́вішчы, прыпёрты да сце́нкі; **get off smb.'s back** *infml* адчапі́цца ад каго́-н.; **be on one's back** *infml* быць у безнадзе́йным стано́вішчы; **put one's back into smth.** працава́ць з энтузія́змам; укла́дваць усю́ душу́ ў пра́цу; **turn one's back on smb./smth.** адвярну́цца ад каго́-н./чаго́-н.

**back²** [bæk] *adj.* за́дні; **in back rows** у за́дніх рада́х; **a back entrance** чо́рны ход; **a back page** адваро́тны бок старо́нкі; **a back street** глуха́я ву́ліца; **a back vowel** *ling.* гало́сны гук за́дняга ра́да

**back³** [bæk] *v.* **1.** ру́хацца ў адваро́тным напра́мку; **back a car** дава́ць за́дні ход машы́не **2.** падтры́мліваць (*план, рэзалюцыю і да т.п.*); *They backed her in the choice of career.* Яны падтрымалі яе выбар прафесіі. **3.** субсідзі́раваць, фінансава́ць **4.** пакрыва́ць (*чым-н.*); **back a book** перапле́сці кні́гу; **a coat backed with fur** паліто́ з фу́травай падшэ́ўкай **5.** прымыка́ць (ззаду); *The house is backed by a hill.* Дом стаіць ля падножжа ўзгорка.

**back away** [ˌbækəˈweɪ] *phr.v.* ад'язджа́ць; адступа́ць

**back off** [ˌbækˈɒf] *phr.v.* адступа́ць, адступа́цца; адрака́цца; адмаўля́цца; біць адбо́й; *Back off! slang* Адстань!/Адчапіся!

**back out** [ˌbækˈaʊt] *phr.v.* **(of)** ухіля́цца (*ад чаго-н.*); **back out of the promise** не стрыма́ць абяца́нне

**back up** [ˌbækˈʌp] *phr.v.* **1.** падтры́мліваць; **back up words with deeds** падмацо́ўваць сло́вы спра́вамі; **back up a theory with facts** падмацо́ўваць тэо́рыю фа́ктамі **2.** дава́ць за́дні ход (*пра машыну*) **3.** суправаджа́ць му́зыкай **4.** *comput.* зрабі́ць дадатко́вы/рэзерво́вы экзэмпля́р

**back⁴** [bæk] *adv.* **1.** ззаду; *Keep back!* Не падыходзь!/Не набліжайся! **2.** наза́д; **back and forth** узад і ўперад; **there and back** туды́ і наза́д; **be/get back home** 1) вярну́цца даха́ты/дамо́ў 2) вярну́цца на радзі́му; **look back** агля́двацца; **step back** зрабі́ць крок наза́д **3.** (таму́) наза́д; **an hour or so back** каля́ гадзі́ны таму́; **far back in ancient times** даўны́мдаўно́, у старажы́тныя часы́ **4.** (*паказвае на дзеянне ў адказ*) **answer back** пярэ́чыць; **pay back** адда́ць доўг; адплаці́ць; вярну́ць гро́шы; **talk back** агрыза́цца ♦ **hold back the tears** стры́мліваць слёзы

**backache** [ˈbækeɪk] *n.* боль у спі́не; *I have (a) backache.* У мяне баліць спіна

**backbencher** [ˌbækˈbentʃə] *n.* радавы́ член парла́мента (*у Вялікабрытаніі*)

**backbite** [ˈbækbaɪt] *v.* пляткáрыць, абгавóрваць (*за спінай*)
**backbiter** [ˈbækbaɪtə] *n.* пляткáр; пляткáрка
**backbiting** [ˈbækbaɪtɪŋ] *n.* зласлóўе, пляткáрства, абгавóры
**backbone** [ˈbækbəʊn] *n.* **1.** *anat.* пазванóчнік, хрыбéт **2.** аснóва, сýтнасць; **the backbone of economy** аснóва эканóмікі **3.** сíла вóлі; цвёрдасць харáктару; *You've got to have the backbone to do it.* Табе трэба мець мужнасць зрабіць гэта.
**back-breaking** [ˈbækˌbreɪkɪŋ] *adj.* знясíльваючы; які́ не пад сíлу; кáтаржны (*пра работу*); *It's a back-breaking job for him.* Гэта праца яму не пад сілу.
**backdate** [ˌbækˈdeɪt] *v.* правóдзіць (*што-н.*) зáднім днём/числóм; *The contract was backdated.* Кантракт быў афармлены заднім числом.
**back door** [ˌbækˈdɔː] *n.* чóрны ход; запасны́ ход ♦ **by/through the back door** чóрным хóдам (*несумленна*)
**backdoor** [ˈbækdɔː] *adj.* закулíсны, тáйны, патаéмны; несумлéнны, хíтры
**backdrop** [ˈbækdrɒp] *n.* дэкарáцыі; мастáцкае афармлéнне; **against the backdrop of** на фóне (*чаго-н.*); **against the backdrop of crisis** у стáне кры́зісу
**backer** [ˈbækə] *n.* спóнсар, фундáтар
**backfire** [ˌbækˈfaɪə] *v.* прывóдзіць да нечакáных непрыéмных вы́нікаў; *The President's tactics could backfire.* Тактыка прэзідэнта магла прывесці да горшага.
**back-formation** [ˈbækfɔːˌmeɪʃn] *n. ling.* адварóтнае словаўтварэ́нне
**background** [ˈbækgraʊnd] *n.* **1.** падрыхтóўка; адукáцыя; пахóджанне; анкéтныя дáныя; **a social background** сацыя́льная прыналéжнасць; *She has a good background for the job.* Яна мае добрую падрыхтоўку і вопыт для гэтай працы. **2.** фон; зáдні план; **against the background** на фóне **3.** *theatre* фон, музы́чнае афармлéнне ♦ **stay in the background** заставáцца на зáднім плáне
**backing** [ˈbækɪŋ] *n.* **1.** падтры́мка, адабрэ́нне, ухвалéнне; *He has a large backing.* У яго многа прыхільнікаў. **2.** субсідзíраванне, фінансавáнне **3.** падклáдка, падшэ́ўка, спод **4.** акампанемéнт; падпéўка
**backlash** [ˈbæklæʃ] *n.* **(against, from)** адмóўная рэáкцыя (*на каго-н./што-н.*); **the male backlash against feminism** рэáкцыя мужчы́н у адкáз на зáхады фемініcтак
**backlog** [ˈbæklɒg] *n.* запазы́чанасць; нéшта нявы́кананае (*заказы, работа і да т.п.*); **backlog of payment** пратэрмінавáныя вы́платы; **catch up with the backlog** ліквідавáць адставáнне
**backpack** [ˈbækpæk] *n.* рáнец, рукзáк; заплéчны мяшóк
**back-room** [ˌbækˈrʊm] *n.* зáдні пакóй; мéсца, дзе адбывáецца нéшта сакрэ́тнае; **back-room boys** *BrE* супрацóўнікі сакрэ́тных лабаратóрый; засакрэ́чаныя супрацóўнікі
**back-seat** [ˌbækˈsiːt] *n.* мéсца ззáду ♦ **a back-seat driver** *iron.* чалавéк, які́ хóча кантралявáць тóе, што не ўвахóдзіць у ягó абавя́зкі
**backside** [ˈbæksaɪd] *n. infml* зад, зáдніца; **give a kick in the backside** даць пад зад
**backslash** [ˈbækslæʃ] *n. comput.* зварóтны слэш
**backstage**[1] [ˌbækˈsteɪdʒ] *adj.* закулíсны, сакрэ́тны
**backstage**[2] [ˌbækˈsteɪdʒ] *adv.* за кулíсамі; за сцэ́най (*таксама перан.*)
**backstreet** [ˈbækstriːt] *adj.* нелегáльны, незакóнны, падпóльны; **backstreet abortions** падпóльныя абóрты
**backstroke** [ˈbækstrəʊk] *n. sport* **: swim/do (the) backstroke** плáваць на спíне
**backtrack** [ˈbæktræk] *v.* **1.** вяртáцца назáд, варóчацца **2.** адмаўля́цца ад сваíх слоў; браць свае́ слóвы назáд
**backup** [ˈbækʌp] *n.* **1.** падтры́мка; рэзéрв **2.** *comput.* рэзервóвы экзэмпля́р
**backward** [ˈbækwəd] *adj.* **1.** зáдні; **a backward movement** рух назáд **2.** адстáлы; запóзнены; **a backward spring** пóзняя вяснá; **a backward child** недаразвíтае дзіця́; **a backward part of the country** адстáлая чáстка краíны ♦ *She is **not backward in coming forward**. infml* Яна не саромеецца высоўвацца.
**backwardness** [ˈbækwədnəs] *n.* адстáласць; нíзкі ўзрóвень развіцця́
**backward(s)** [ˈbækwəd(z)] *adv.* **1.** назáд; *He took a step backwards.* Ён зрабіў крок назад; **fall backwards** пáдаць дагары́ (нагáмі); **turn one's head backwards** аглядáцца **2.** у адварóтным напрáмку; зáдам напéрад; **say the alphabet backwards** назывáць лíтары алфавíта ў адварóтным парáдку ♦ **backward(s) and forward(s)** узáд і ўпéрад; *He knew his lesson backward and forward.* Ён ведаў урок назубок.
**backwater** [ˈbækˌwɔːtə] *n.* **1.** затóка, запрýда **2.** балóта (*перан.*), застóй; **a sleepy/quiet/rural backwater** *derog.* сóннае цáрства, глухí закýтак
**backwoods** [ˈbækwʊdz] *n. pl.* глуш, глухамáнь; глухí кутóк; **the backwoods of the country's past** недаслéдаваная чáстка мінýлага краíны

**backyard** [ˈbækjɑːd] *n.* **1.** *BrE* двор або́ садо́к за до́мам; за́дні двор **2.** *AmE* газо́н за до́мам ♦ **one's own backyard** ро́дныя мясці́ны, ро́дны кут

**bacon** [ˈbeɪkən] *n.* беко́н; **smoked bacon** вэ́нджаны беко́н; **bacon and eggs** яе́чня з беко́нам; **a rasher of bacon** скры́лік грудзі́нкі; **a gammon of bacon** свіны́ кумпя́к; вяндлі́на

**bacteria** [bækˈtɪəriə] *pl.* → **bacterium**

**bacterial** [bækˈtɪəriəl] *adj.* бактэрыя́льны; **bacterial action** дзе́йнасць мікро́баў

**bacteriological** [bækˌtɪəriəˈlɒdʒɪkl] *adj.* бактэрыялагі́чны; **bacteriological warfare** бактэрыялагі́чная вайна́; **bacteriological weapons** бактэрыялагі́чная збро́я

**bacteriologist** [bækˌtɪəriˈɒlədʒɪst] *n.* бактэрыёлаг

**bacteriology** [bækˌtɪəriˈɒlədʒi] *n.* бактэрыяло́гія

**bacterium** [bækˈtɪəriəm] *n.* (*pl.* **bacteria**) бактэ́рыя, мікро́б

**bad**[1] [bæd] *n.* **the bad 1.** благі́я лю́дзі **2.** благо́е ♦ **my bad** *AmE, infml* мая́ віна́; **be to the bad** *BrE* атрыма́ць ме́ншую су́му (гро́шай), чым раней́; **go to the bad** пача́ць паво́дзіць сябе́ амара́льна

**bad**[2] [bæd] *adj.* **(worse, worst) 1.** дрэ́нны, ке́пскі, благі́; **bad luck** няўда́ча; **bad news** непрые́мныя наві́ны; **bad taste** безгусто́ўнасць; **bad language** брыдкасло́ўе; **bad mood** дрэ́нны настро́й; **a bad word** непрысто́йнае сло́ва, ла́янка; **call smb. (bad) names** абзыва́ць каго́-н. **2.** гнілы́, сапсава́ны; **bad fish** прату́хлая ры́ба; **bad air** забру́джанае паве́тра; **go bad** псава́цца, гні́сці **3.** хво́ры (*пра стан чалавека*); **a bad tooth** гнілы́ зуб; **feel bad** ке́пска сябе́ адчува́ць; *He is in bad health.* У яго кепскае здароўе. **4.** непрые́мны; мо́цны; во́стры (*пах, смак*); **bad breath** непрые́мны пах з ро́та **5.** памылко́вы, няпра́вільны; *You've got bad grammar.* Ты робіш шмат граматычных памылак. ♦ **go from bad to worse** каці́цца ўніз; рабі́цца ўсё горш і горш; пагарша́цца; **be in a bad way :** *He is in a bad way.* Яму вельмі кепска; **not bad** *infml* нядрэ́нна; нішто́ сабе́; **not so bad** не так ужо́ і дрэ́нна; нішто́ сабе́

**bade** [beɪd] *past* → **bid**[3]

**badge** [bædʒ] *n.* **1.** бэдж, значо́к **2.** знак адро́знення **3.** сі́мвал; пры(к)ме́та; **a badge of honour** сі́мвал го́нару

**badger**[1] [ˈbædʒə] *n.* **1.** *zool.* барсу́к **2.** фу́тра барсука́

**badger**[2] [ˈbædʒə] *v.* **1.** траві́ць (*як барсука*) **2.** чапля́цца; прыстава́ць; *Stop badgering me!* Адчапіся ад мяне!

**badly** [ˈbædli] *adv.* **(worse, worst) 1.** дрэ́нна, ке́пска, бла́га **2.** ве́льмі, на́дта; *The building is badly in need of repair.* Будынку вельмі патрэбен рамонт; **be badly ill** мо́цна хварэ́ць; *She is badly ill.* Яна моцна хварэе. ♦ **be badly off** быць бе́дным; **be badly off for smth.** не мець дастатко́ва чаго́-н.; *He is badly off for friends.* Яму не хапае сяброў.

**bad-mannered** [ˌbædˈmænəd] *adj.* нявы́хаваны

**badminton** [ˈbædmɪntən] *n.* бадмінто́н; **a badminton bird** вала́н для бадмінто́на

**bad-tempered** [ˌbædˈtempəd] *adj.* зласлі́вы; зло́сны; сярдзі́ты

**baffle** [ˈbæfl] *v.* азада́чваць; бянтэ́жыць; збіва́ць з панталы́ку; *His behaviour baffles me.* Яго паводзіны бянтэжаць мяне; *The police are baffled by the murder.* Гэта забойства паставіла паліцыю ў тупік.

**baffling** [ˈbæflɪŋ] *adj.* **1.** ця́жкі, цяжкі́; з перашко́дай **2.** незразуме́лы, зага́дкавы

**bag**[1] [bæg] *n.* **1.** су́мка, то́рба; паке́т; **an evening bag** тэатра́льная су́мачка; **a garbage/rubbish bag** паке́т для сме́цця; **a paper bag** папяро́вы паке́т; **a plastic bag** поліэтыле́навы паке́т; **a shopping bag** су́мка для паку́пак **2.** мех, мяшо́к; **a bag of cement** мяшо́к цэме́нту **3.** *infml* ба́ба, цётка (*пра непрыемную жанчыну*) **4.** *pl.* **bags (of smth.)** *BrE, infml* про́цьма, бага́та; нава́лам; **bags of time** нава́лам ча́су **5.** *pl.* **bags** мяшкі́ (*пад вачыма*) ♦ **a bag of bones** *infml* рэ́бры ды ску́ра; **bag and baggage** ца́лкам, без аста́тку; **be in the bag** *infml* спра́ва зро́блена; *It is in my bag.* Гэта ўжо ў мяне ў кішэні; **leave smb. holding the bag** узвалі́ць адка́знасць на каго́-н.

**bag**[2] [bæg] *v.* *таксама* **bag up** скла́дваць, пакава́ць у мяхі́/су́мкі/кулі́

**baggage** [ˈbægɪdʒ] *n.* **1.** *AmE* бага́ж; **excess baggage** лі́шак багажу́; **baggage handlers** насі́льшчыкі багажу́ **2.** цяжа́р, абу́за

**baggage car** [ˈbægɪdʒˌkɑː] *n.* *AmE* бага́жны ваго́н

**baggage reclaim** [ˈbægɪdʒrɪˌkleɪm] *n.* *BrE* аддзяле́нне «Вы́дача багажу́» (*у аэрапорце*)

**baggage room** [ˈbægɪdʒˌrʊm] *n.* *AmE* ка́мера для захо́ўвання багажу́

**baggy** [ˈbægi] *adj.* мешкава́ты, адві́слы (*пра адзежу*); **baggy cheeks** дру́злыя шчо́кі

**bagpipes** [ˈbægpaɪps] *n. pl.* валы́нка (*музычны інструмент*)

**bah** [bɑː] *interj.* (*ужываецца для выражэння нездавальнення, нязгоды*) вось!; во яшчэ́!; *Bah! That's stupid.* Вось глупства!

**bail**[1] [beɪl] *n.* закла́д, зало́г, паручы́цельства; **allow/take bail for the prisoner** вызваля́ць на пару́кі з турмы́; **be on bail** быць на пару́ках

**bail**[2] [beɪl] *v.* браць на пару́кі; адпуска́ць на пару́кі; **be bailed for trial** быць вы́зваленым да суда́ на пару́кі або́ пад зало́г; **bail smb. out (of smth.)** выбаўля́ць каго́-н. з бяды́

**bail out** [ˌbeɪlˈaʊt] *phr.v.* **1.** катапультава́цца **2.** вычэ́рпваць (*ваду з лодкі*)

**bailiff** [ˈbeɪlɪf] *n.* **1.** *BrE, law* бе́йліф; судо́вы выкана́ўца **2.** *BrE* распара́дчык; акано́м **3.** *AmE* наме́снік шэры́фа

**bait**[1] [beɪt] *n.* **1**. прына́да, жыве́ц **2.** спаку́са, спакушэ́нне ♦ **take/swallow the bait** клю́нуць на што-н., спакусі́цца на што-н.

**bait**[2] [beɪt] *v.* **1.** чапля́ць жыўца́ на кручо́к **2.** лаві́ць ры́бу ву́даю; лаві́ць на жыўца́

**baize** [beɪz] *n. textile* сукно́; **green baize** зялёнае сукно́ (*більярднага стала*)

**bake** [beɪk] *v.* **1.** пячы́, выпяка́ць; пячы́ся, запяка́цца; **baked potatoes** пе́чаная бу́льба **2.** прыпяка́ць, сушы́ць; **lips baked with heat** сасмя́глыя ву́сны; *The sun has baked the ground hard.* Сонца ўшчэнт высушыла зямлю. **3.** *infml* загара́ць, ляжа́ць на со́нцы

**baker** [ˈbeɪkə] *n.* пе́кар; бу́лачнік; **the baker's (shop)** бу́лачная ♦ **a baker's dozen** *dated* чо́ртаў ту́зін (*лік 13*)

**bakery** [ˈbeɪkəri] *n.* **1.** пяка́рня; хлебазаво́д **2.** бу́лачная

**baking** [ˈbeɪkɪŋ] *n.* выпяка́нне; вы́печка; **a baking dish** блю́да для пе́чыва

**baking pan** [ˈbeɪkɪŋˌpæn] *n.* фо́рма для пірага́

**baking powder** [ˈbeɪkɪŋˌpaʊdə] *n.* парашо́к для пе́чыва

**baking soda** [ˈbeɪkɪŋˌsəʊdə] *n.* со́да для пе́чыва

**baking tin** [ˈbeɪkɪŋˌtɪn] *n.* бля́ха (*для выпякання*)

**balance**[1] [ˈbæləns] *n.* **1.** раўнава́га, балансава́нне; **stable balance** усто́йлівая раўнава́га; **off balance** няўсто́йлівы, хі́сткі; **keep one's balance** захо́ўваць раўнава́гу; **lose one's balance** губля́ць раўнава́гу; выхо́дзіць з сябе́; злава́цца **2.** *finance* бала́нс; са́льда; рэ́шткі; **adverse balance** пасі́ўны бала́нс; **favourable balance** акты́ўны бала́нс; **balance of payments** плаце́жны бала́нс **3.** вага́, ва́гі ♦ **be in the balance** быць нявы́рашаным; **tremble/swing in the balance** ліпе́ць на валаску́; сумнява́цца; **on balance** у вы́ніку; *On balance, the company has had a successful year.* У выніку ў фірмы быў паспяховы год; **catch/throw smb. off balance** збіць каго́-н. з панталы́ку, вы́весці з раўнава́гі

**balance**[2] [ˈbæləns] *v.* **1.** балансава́ць, захо́ўваць раўнава́гу **2.** прыво́дзіць у раўнава́гу, ураўнава́жваць; **balance foreign trade** *econ.* збалансава́ць зне́шні га́ндаль **3.** *finance* падлі́чваць, падсумо́ўваць, закрыва́ць (*рахункі*), падбіва́ць бала́нс

**balanced** [ˈbælənst] *adj.* **1.** ураўнава́жаны, спако́йны **2.** абду́маны, узва́жаны, праду́маны **3.** збалансава́ны, гармані́чны, прапарцыяна́льны, суразме́рны; **a balanced diet** збалансава́ная дые́та

**balance-wheel** [ˈbælənswiːl] *n.* **1.** *tech.* махаві́к **2.** ма́ятнік

**balcony** [ˈbælkəni] *n.* **1.** балко́н; **a recessed balcony** ло́джыя **2.** *theatre* балко́н пе́ршага я́руса

**bald** [bɔːld] *adj.* **1.** лы́сы, пляшы́вы; **go bald** лысе́ць **2.** аго́лены, без по́крыва (*пёраў, раслінасці і да т.п.*); **a bald hill** го́лы ўзго́рак **3.** бяско́лерны, бе́дны, убо́гі; **bald prose** ну́дная про́за; **bald style** убо́гі стыль ♦ **as bald as a coot/an egg/a billiard ball** лы́сы як кале́на

**balderdash** [ˈbɔːldədæʃ] *n. dated* лухта́, бязглу́здзіца

**bald-head** [ˌbɔːldˈhed] *n.* **1.** лы́сы (чалавек) **2.** жывёліна з бе́лай пля́май на (і)лбе

**bald-headed** [ˌbɔːldˈhedɪd] *adj.* лы́сы, пляшы́вы

**baldly** [ˈbɔːldli] *adv*. адкры́та, пра́ма; **put it baldly** каза́ць пра́ма, без хі́трыкаў

**baldness** [ˈbɔːldnəs] *n.* лы́сасць, пляшы́васць

**bale**[1] [beɪl] *n.* кі́па, пак, ву́зел, звя́зка; **a bale of hay** цюк прасава́нага се́на

**bale**[2] [beɪl] *v.* скла́дваць у кі́пы, цюкава́ць

**bale out** [ˌbeɪlˈaʊt] *phr.v. BrE* = **bail out**

**baleful** [ˈbeɪlfəl] *adj. lit.* злаве́сны; шко́дны

**balk** [bɔːk] *AmE* = **baulk**

**balky** [ˈbɔːki] *adj. AmE* непаслухмя́ны; упа́рты

**ball**[1] [bɔːl] *n.* **1.** мяч, мя́чык; **a tennis ball** тэ́нісны мя́чык; **kick the ball about** ганя́ць мяч **2.** шар; *The Earth is a ball.* Зямля – гэта шар; **a ball of cotton** ва́тны ша́рык **3.** *sport* кідо́к, уда́р (*мячом*) **4.** закру́гленая ча́стка (*чаго-н.*); **the ball of the eye** *anat.* во́чны я́блык; **the ball of the knee** *anat.* кале́нны суста́ў ♦ **get/set/start the ball rolling** пача́ць яку́ю-н. спра́ву; **play ball (with smb.)** *infml* супрацо́ўнічаць (з кім-н.); падтры́мліваць до́брыя стасу́нкі

**ball**[2] [bɔːl] *v.* збіра́ць, звя́зваць у клубо́к; сціска́цца ў камя́к; *Her hands balled into fists.* Яна сціснула рукі ў кулакі.

**ball**[3] [bɔːl] *n.* баль; **give a ball** спраўля́ць баль; **a ball dress** ба́льная суке́нка; **a fancy-dress ball** баль-маскара́д

**ballad** [ˈbæləd] *n.* бала́да; **a ballad stanza** бала́дная страфа́

**ballast** [ˈbæləst] *n.* бала́ст; бала́сны слой

**ball-bearing** [ˌbɔːlˈbeərɪŋ] *n.* шарыкападшы́пнік

**ballerina** [ˌbæləˈriːnə] *n.* балеры́на

**ballet** [ˈbæleɪ] *n.* бале́т; **ballet shoes** бале́тныя ту́флі

**ballet dancer** [ˈbæleɪˌdɑːnsə] *n.* арты́ст бале́та; арты́стка бале́та; балеры́на

**ballet-master** [ˈbæleɪˌmɑːstə] *n.* балетма́йстар

**ballistic** [bəˈlɪstɪk] *adj.* балісты́чны; **a ballistic missile** балісты́чная раке́та

**ballistics** [bəˈlɪstɪks] *n.* балі́стыка

**balloon** [bəˈluːn] *n.* паве́траны шар ♦ **when the balloon goes up** *BrE*, *infml* калі́ бяда́ пры́йдзе; калі́ сітуа́цыя пагоршыцца

**balloonist** [bəˈluːnɪst] *n.* паветрапла́вальнік; аэрана́ўт

**ballot**$^{1}$ [ˈbælət] *n.* **1.** галасава́нне; **by secret ballot** та́йным галасава́ннем **2.** вы́барчы бюлетэ́нь **3. the ballot** ко́лькасць пада́дзеных галасо́ў; вы́нікі галасава́ння

**ballot**$^{2}$ [ˈbælət] *v.* **1.** право́дзіць та́йнае галасава́нне; балаці́раваць **2. (for/against)** галасава́ць (за/су́праць)

**ballot-box** [ˈbælətˌbɒks] *n.* вы́барчая у́рна/скры́нка; **stuff the ballot box** *AmE* фальсіфікава́ць вы́бары

**ballpark** [ˈbɔːlpɑːk] *n.* **1.** пляцо́ўка для гульні́ ў бейсбо́л **2. : a ballpark figure** прыблі́зная лі́чба/су́ма

**ballpoint (pen)** [ˈbɔːlpɔɪnt(pen)] *n.* ша́рыкавая ру́чка

**ballroom** [ˈbɔːlrʊm] *n.* за́ла для та́нцаў; **ballroom dancing** ба́льныя та́нцы

**balls-up** [ˈbɔːlzʌp] *n. slang, taboo* глу́пства; не́шта дрэ́нна зро́бленае

**ballyhoo** [ˌbæliˈhuː] *n. infml* шумі́ха

**balm** [bɑːm] *n.* бальза́м; гаю́чы сро́дак; **pour balm into smb.'s wounds** суніма́ць чые́-н. паку́ты; ліць бальза́м на ра́ны (*таксама перан.*)

**balmy** [ˈbɑːmi] *adj.* духмя́ны, паху́чы; цёплы (*пра паветра*); **the balmy breath of spring** во́дар вясны́

**baloney** [bəˈləʊni] *n. infml* лухта́, бязглу́здзіца, глу́пства; мана́

**balsam** [ˈbɔːlsəm] *n.* = **balm**

**balsam fir** [ˈbɔːlsəmˌfɜː] *bot.* пі́хта бальзамі́чная

**Baltic** [ˈbɔːltɪk] *adj.* балты́йскі; **the Baltic states** Прыба́лтыка, прыбалты́йскія краі́ны

**baluster** [ˈbæləstə] *n.* баля́сіна, баля́са

**balustrade** [ˌbæləˈstreɪd] *n.* балюстра́да; пара́пет; по́ручні, парэ́нчы

**bamboo** [ˌbæmˈbuː] *n. bot.* бамбу́к; **bamboo shoots** бамбу́кавыя маладу́я па́расткі (*якія можна есці*)

**ban**$^{1}$ [bæn] *n.* **(on)** забаро́на; **a total ban on smoking** по́ўная забаро́на курэ́ння

**ban**$^{2}$ [bæn] *v.* забараня́ць; **ban a newspaper** закры́ць газе́ту; *He was banned from driving for two months.* Яму забаранілі кіраваць аўтамабілем на працягу двух месяцаў.

**banal** [bəˈnɑːl] *adj.* бана́льны, шабло́нны, неціка́вы

**banality** [bəˈnæləti] *n.* бана́льнасць, трывія́льнасць; *They exchanged banalities for a couple of minutes.* Пару хвілін яны абменьваліся банальнасцямі.

**banana** [bəˈnɑːnə] *n. bot.* бана́н; **a bunch of bananas** гро́нка бана́наў ♦ **go bananas** *slang* раззлава́цца да вар'я́цтва, звар'яце́ць ад зло́сці; зрабі́ць глу́пства

**banana republic** [bəˌnɑːnərɪˈpʌblɪk] *n. derog.* бана́навая рэспу́бліка (*бедная, палітычна незбалансаваная краіна, якая фінансава залежыць ад замежнай дапамогі*)

**band**$^{1}$ [bænd] *n.* **1.** сту́жка, тасьма́; **a crepe band** жало́бная павя́зка (*на рукаве*) **2.** паласа́ часто́т (*пра радыё*)

**band**$^{2}$ [bænd] *v.* звя́зваць, накла́дваць абручы́ (*на тару*)

**band**$^{3}$ [bænd] *n.* **1.** арке́стр; гру́па; гурт; **a brass band** духавы́ арке́стр; **a jazz band** джаз-арке́стр **2.** ба́нда

**band**$^{4}$ [bænd] *v.* аб'ядно́ўваць, злуча́ць

**band together** [ˌbændtəˈgeðə] *phr.v.* збіра́цца; з'ядно́ўвацца, згурто́ўвацца

**bandage**$^{1}$ [ˈbændɪdʒ] *n. med.* бінт, павя́зка; banда́ж; **remove a bandage** здыма́ць павя́зку

**bandage**$^{2}$ [ˈbændɪdʒ] *v.* перавя́зваць, бінтава́ць

**bandaging room** [ˈbændɪdʒɪŋˌrʊm] *n.* перавя́зачная

**band-aid** [ˈbændeɪd] *n.* пла́стыр

**B and B** [ˌbiːəndˈbiː] *infml* (*скар. ад* **bed and breakfast**) начле́г і снеда́нак (*у невялікіх гатэлях*)

**bandbox** [ˈbændbɒks] *n.* кардо́нка, каро́бка (*для капелюшоў*)

**bandit** [ˈbændɪt] *n.* банды́т, разбо́йнік; злачы́нца

**banditry** [ˈbændɪtri] *n.* бандыты́зм

**bandmaster** [ˈbændˌmɑːstə] *n.* капельма́йстар

**bandsman** [ˈbændzmən] *n.* (*pl.* **-men**) аркестра́нт

**bandwagon** [ˈbændˌwægən] *n.* **1.** фурго́н **2.** ма́савы рух ♦ **climb/jump on the bandwagon** *infml, derog.* прыма́звацца да перамо́жцаў

**bandy** [ˈbændi] *adj.* крывы́ (*пра ногі*)

**bandy-legged** [ˌbændiˈlegd] *adj.* крывано́гі

**bane** [beɪn] *n.* згу́ба; атру́та (*таксама перан.*); *Drink has been the bane of his life.* П'янства згубна паўплывала на яго жыццё.

**baneful** [ˈbeɪnfəl] *adj. lit.* згу́бны
**bang¹** [bæŋ] *n. звыч. pl.* **bangs** грыўка
**bang²** [bæŋ] *n.* **1.** мо́цны ўдар; *He got a nasty bang on the head.* Ён моцна стукнуўся галавой. **2.** раптоўны шум; **shut the door with a bang** ляпнуць дзвярыма ♦ **with a bang** *infml* **:** *The party went with a bang.* Вечарына прайшла бліскуча.
**bang³** [bæŋ] *v.* бра́згаць, сту́каць, ля́паць; *The door banged shut behind her.* Яна бразнула дзвярыма.
**bang about** [ˌbæŋəˈbaʊt] *phr.v.* гру́каць
**bang around** [ˌbæŋəˈraʊnd] *phr.v.* = **bang about**
**bang⁴** [bæŋ] *adj.,adv. infml* **1.** якра́з; **bang on time** якра́з у прызна́чаны тэ́рмін **2.** зусі́м ♦ *Our computers are* ***bang up to date****. infml* Нашы камп'ютары мадэрновыя; **go bang** *infml* узарва́цца
**banger** [ˈbæŋə] *n. BrE, infml* **1.** сасі́ска **2.** драндуле́т (*пра стары аўтамабіль*)
**Bangla** [ˈbʌŋlɜː] *n.* бенга́льская мо́ва
**bangle** [ˈbæŋgl] *n.* бранзале́т, бранзале́тка
**banish** [ˈbænɪʃ] *v.* **1.** выганя́ць, высыла́ць; праганя́ць; *He was banished to Siberia.* Яго выслалі ў Сібір. **2.** *fml* адганя́ць (*думкі*); пазбаўля́цца (*страху*); пераадо́льваць (*пачуцці*)
**banishment** [ˈbænɪʃmənt] *n.* выгна́нне, ссы́лка; **a banishment for life** пажыццёвая ссы́лка
**banister** [ˈbænɪstə] *n.* по́ручань
**banjo** [ˈbændʒəʊ] *n.* ба́нджа (*музычны інструмент*)
**bank¹** [bæŋk] *n.* **1.** банк; **a branch bank** філія́л ба́нка **2.** фонд, агу́льны запа́с; рэзе́рв; **a blood bank** запа́с крыві́ (*для пералівання*); **a data bank** банк да́ных
**bank²** [bæŋk] *v.* кла́сці/трыма́ць гро́шы (*у банку*)
**bank³** [bæŋk] *n.* **1.** бе́раг (*ракі, канала*) **2.** вал, на́сып; да́мба; круты́ схіл **3.** нано́с, зано́с; сумёты, гу́рбы сне́гу
**bank⁴** [bæŋk] *v.* **1.** нава́льваць, зграба́ць у ку́чы; **bank snow** зграба́ць снег у ку́чы **2.** акружа́ць ва́лам, рабі́ць на́сып **3.** рабі́ць віра́ж (*пра самалёт*)
**bank on** [ˌbæŋkˈɒn] *phr.v.* разлі́чваць (*на каго-н.*), спадзява́цца; *I am banking on you to help me.* Я спадзяюся на вашу дапамогу.
**bank up** [ˌbæŋkˈʌp] *phr.v.* падтры́мліваць аго́нь
**bank⁵** [bæŋk] *n.* камплéкт, набо́р, се́рыя
**bank account** [ˈbæŋkəˌkaʊnt] *n.* ба́нкаўскі раху́нак; **open/close a bank account** адкры́ць/закры́ць раху́нак (*у банку*)
**bank card** [ˈbæŋkˌkɑːd] *n.* крэды́тная (*банкаўская*) ка́ртка
**banker** [ˈbæŋkə] *n.* банкі́р
**bank holiday** [ˌbæŋkˈhɒlɪdeɪ] *n. BrE* непрацо́ўны дзень, калі́ зачы́нены ба́нкі
**banknote** [ˈbæŋknəʊt] *n.* банкно́та, крэды́тны біле́т; **forged banknotes** фальшы́выя гро́шы
**bankrupt¹** [ˈbæŋkrʌpt] *n.* банкру́т
**bankrupt²** [ˈbæŋkrʌpt] *adj.* **: go bankrupt** абанкру́ціцца
**bankrupt³** [ˈbæŋkrʌpt] *v.* прыво́дзіць да банкру́цтва
**bankruptcy** [ˈbæŋkrʌptsi] *n.* банкру́цтва
**banner** [ˈbænə] *n.* ба́нер; ло́зунг; транспара́нт; **under the banner (of smth.)** (*перан.*) пад сця́гам (чаго́-н.)
**banquet** [ˈbæŋkwɪt] *n.* банке́т; урачы́сты абе́д; **a banquet hall** банке́тная за́ла
**banter** [ˈbæntə] *v.* добразычлі́ва жартава́ць, абме́ньвацца жа́ртамі
**baobab** [ˈbeɪəʊbæb] *n. bot.* бааба́б
**baptism** [ˈbæptɪzəm] *n.* хрысці́ны; хрышчэ́нне; **private baptism** хрысці́ны до́ма ♦ **baptism of fire** баяво́е хрышчэ́нне; выпрабава́нне
**baptist** [ˈbæptɪst] *n. eccl.* **1.** бапты́ст **2. Baptist** Хрысці́цель; **St. John the Baptist** Іаа́н Хрысці́цель; **Baptist's Day** дзень Свято́га Іаа́на/Я́на (*свята*)
**baptize,** *BrE* **-ise** [bæpˈtaɪz] *v.* хрысці́ць; дава́ць імя́; *He was baptized John.* Пры хрышчэнні яму далі імя Джон.
**bar¹** [bɑː] *n.* бар; прыла́вак; сто́йка; буфе́т; **a snack bar** заку́сачная
**bar²** [bɑː] *n.* **the Bar** адвакату́ра
**bar³** [bɑː] *n.* **1.** кава́лак, бруsóк; **a bar of chocolate** плі́тка шакала́ду; **a bar of soap** кава́лачак мы́ла **2.** перашко́да, бар'е́р; **a language bar** мо́ўны бар'е́р **3.** паласа́ (*святла, колеру*) **4.** *tech.* пруто́к, шта́нга, стры́жань; ліне́йка, пла́нка, рэ́йка **5.** *mus.* такт; **a double bar** кане́ц музы́чнай фра́зы **6.** *sport* перакла́дзіна (*гімнастычная*); пла́нка для скачко́ў у вышыню́ **7.** *sport pl.* **bars** брусы́ ♦ **behind bars** *infml* за кра́тамі; у турме́
**bar⁴** [bɑː] *v.* **1.** зачыня́ць на за́саўку; **bar the door against smb.** зачыня́цца ад каго́-н. **2.** загаро́джваць, блакі́раваць; *The exits were barred.* Выхады былі блакіраваны. **3.** перашкаджа́ць, тармазі́ць (*працэс*); заміна́ць; **bar progress** тармазі́ць прагрэ́с
**barb** [bɑːb] *n.* **1.** зубе́ц **2.** шпі́лька (*перан.*) **3.** ву́сік (*рыбы*)
**barbarian¹** [bɑːˈbeəriən] *n.* **1.** ва́рвар **2.** дзіку́н
**barbarian²** [bɑːˈbeəriən] *adj.* **1.** ва́рварскі; **barbarian tribes** ва́рварскія плямёны **2.** дзіку́нскі
**barbaric** [bɑːˈbærɪk] *adj.* **1.** жо́рсткі **2.** ва́рварскі, дзі́кі; першабы́тны; **barbaric taste**

грýбы густ; **barbaric splendour** аляпавáтая раскóша

**barbarism** [ˈbɑːbərɪzəm] *n.* **1.** вáрварства **2.** грýбасць, некультýрнасць **3.** *ling.* варварызм

**barbarity** [bɑːˈbærəti] *n.* вáрварства; жóрсткасць; дзікýнства

**barbarous** [ˈbɑːbərəs] *adj.* **1.** вáрварскі; жóрсткі; дзікýнскі **2.** грýбы; некультýрны

**barbecue**[1] [ˈbɑːbɪkjuː] *n.* **1.** барбекю́ (*прыстасаванне для смажання на адкрытым агні*); жарóўня **2.** барбекю́ (*сасіскі, стэйк і да т.п., засмажаныя на адкрытым агні*) **3.** пікні́к-барбекю́

**barbecue**[2] [ˈbɑːbɪkjuː] *v.* смáжыць (*сасіскі, стэйк і да т.п. на барбекю*)

**barbed** [bɑːbd] *adj.* **1.** калю́чы, з зазýбрынамі; **barbed wire** калю́чы дрот **2.** калю́чы, з’éдлівы; **barbed words** кпі́ны

**barber** [ˈbɑːbə] *n.* цырýльнік (*мужчынскі*); **the barber’s** цырýльня

**barberry** [ˈbɑːbəri] *n. bot.* барбары́с

**barbie** [ˈbɑːbi] *n. BrE, AustralE, infml* = **barbecue**

**Barbie (doll)** [ˈbɑːbi(dɒl)] *n.* **1.** ля́лька Бáрбі **2.** *infml* бáрбі (*сексуáльна прыцягáльная жанчы́на*)

**barbiturate** [bɑːˈbɪtʃʊrət] *n. pharm.* барбітурáт

**bar code** [ˈbɑːkəʊd] *n.* штрыхкóд (*на ўпакоўцы тавараў*)

**bard** [bɑːd] *n. poet.* бард; пясня́р; **the Bard of Avon** бард з Эйвана (*Шэкспір*)

**bare**[1] [beə] *adj.* **1.** агóлены; непакры́ты; **bare walls** гóлыя сцéны (*без карцін*); *The trees are already bare.* На дрэвах ужо няма лістоты. **2.** гóлы, непрыкры́ты; **bare facts** гóлыя фáкты; **bare excuses** пусты́я адгавóркі; **tell the bare truth** казáць чы́стую прáўду **3.** мізэ́рны, мінімáльны, нязнáчны; **a bare chance** мінімáльны шанс; **a bare minimum** тóлькі мíнімум ♦ **the bare bones** 1) сýтнасць (*чаго-н.*) 2) гóлыя фáкты; **fight with bare hands** біцца гóлымі рукáмі (*без зброі*); **lay smth. bare** *fml* выкрывáць, раскрывáць (*сакрэт*)

**bare**[2] [beə] *v.* агаля́ць (*звыч. цела*)

**bareback** [ˈbeəbæk] *adv.* **: ride bareback** éхаць вярхóм без сядлá

**barefaced** [ˈbeəfeɪst] *adj.* бессарóмны, нахáбны; **a barefaced lie** нахáбная манá; **barefaced cheek** нахáбнасць

**barefoot(ed)** [ˈbeəfʊt(ɪd)] *adj., adv.* бóсы, басанóгі; басанóж

**barehanded** [ˌbeəˈhændɪd] *adj., adv.* з гóлымі рукáмі (*без пальчатак, рукавіц; без зброі*

**barehcaded** [ˌbeəˈhedɪd] *adj., adv.* з непакры́тай галавóю (*без шапкі; без хусткі і да т.п.*)

**barely** [ˈbeəli] *adv.* лéдзьве, ледзь; *I had barely begun speaking...* Ледзь я пачаў гаварыць...

**bargain**[1] [ˈbɑːgən] *n.* **1.** тáнна кýпленая рэч **2.** (*гандлёвая*) здзéлка; кýпля; **make a bargain** заключы́ць здзéлку; дамóвіцца; **be off one’s bargain** анулявáць здзéлку, вы́звaліцца ад абавя́зку; **buy smth. at a bargain** купля́ць нéшта за бéсцань ♦ **a Dutch/wet bargain** здзéлка за пля́шкаю вінá; **strike a bargain** дамóвіцца, старгавáцца; **into the bargain** у прыдáчу, у дадáтак, да тагó ж

**bargain**[2] [ˈbɑːgən] *v.* **(about/over/for)** таргавáцца, вéсці перамóвы, дамаўля́цца (*аб умовах, цэнах і да т.п.*); **bargain for/on smth.** чакáць чагó-н., спадзявáцца на штó-н.; *It was more than I’d bargained for.* На гэта я і не разлічваў.

**bargain away** [ˌbɑːgənəˈweɪ] *phr.v.* аддáць за бéсцань, разбазáрыць

**bargaining** [ˈbɑːgənɪŋ] *n.* торг; заключэ́нне таргóвай здзéлкі

**barge**[1] [bɑːdʒ] *n.* бáржа; бáрка; шалáнда

**barge**[2] [bɑːdʒ] *v.* **1.** перавóзіць на бáржы **2.** піхáць; піхáцца (*у натоўпе*); урывáцца (*куды-н.*)

**barge in** [ˌbɑːdʒˈɪn] *phr.v. infml* **1.** умéшвацца (*у размову*) **2.** з’яўля́цца без запрашэ́ння; увáльвацца

**baritone** [ˈbærɪtəʊn] *n. mus.* барытóн (*голас; спявак*)

**barium** [ˈbeəriəm] *n. chem.* бáрый

**bark**[1] [bɑːk] *n.* **1.** гáўканне, брэх **2.** рэ́зкі гук **3.** рэ́зкі/грýбы адкáз, рэзкі/грýбы зварóт

**bark**[2] [bɑːk] *v.* **1. (at)** гáўкаць, брахáць **2.** крычáць, раўцí ♦ **bark at the moon** брахáць на пóўню; **be barking up the wrong tree** *infml.* памыля́цца; рабіць абы-штó

**bark**[3] [bɑːk] *n.* карá (*дрэва*); луб

**bark**[4] [bɑːk] *v.* **1.** нарóшчваць карý; пакрывáцца карóй (*пра дрэва*) **2.** здзірáць карý **3.** здзірáць скýру

**bark beetle** [ˈbɑːkbiːtl] *n. entomol.* жук-караéд

**barker** [ˈbɑːkə] *n.* зазывáла

**barley** [ˈbɑːli] *n.* ячмéнь; **pearl/French barley** пярлóўка

**barmaid** [ˈbɑːmeɪd] *n.* бáрменша

**barman** [ˈbɑːmən] *n.* (*pl.* **-men**) бáрмен

**barmy** [ˈbɑːmi] *n. BrE, infml* прыдуркавáты

**barn** [bɑːn] *n.* **1.** свíран; павéць; гумнó; **a hay barn** адры́на, пýня **2.** хлеў

**barnacle** [ˈbɑːnəkl] *n. zool.* **1.** марскí малю́ск **2.** рак-вусáч

**barnacles** [ˈbɑːnəklz] *n. pl.* шчыпцы́

**barn dance** [ˈbɑːndɑːns] *n.* вяскóвыя тáнцы

**barometer** [bəˈrɒmɪtə] *n.* **1.** барóметр; *The barometer is falling.* Барометр падае. **2.** барóметр (*перан.*), паказáльнік, індыкáтар

**barometric** [ˌbærəˈmetrɪk] *adj.* бараметры́чны
**baron** [ˈbærən] *n.* **1.** баро́н **2.** магна́т, туз; **oil barons** на́фтавыя каралі́
**baroness** [ˈbærənəs] *n.* **1.** барane ́са; **Baroness Thatcher** баране́са Тэ́тчэр **2.** жо́нка баро́на
**baronet** [ˈbærənət] *n.* барane ́т
**baronial** [bəˈrəʊniəl] *adj.* баро́нскі; **a baronial rank** ты́тул баро́на
**baroque**[1]**, Baroque** [bəˈrɒk] *n.* баро́ка
**baroque**[2]**, Baroque** [bəˈrɒk] *adj.* баро́чны, у сты́лі баро́ка; **baroque churches** цэ́рквы ў сты́лі баро́ка
**barque** [bɑːk] *n.* ба́рка
**barrack** [ˈbærək] *v.* **1.** *BrE* гу́чна высме́йваць, асві́стваць **2. (for)** *AustralE.* падтры́млiваць сваю́ кама́нду
**barracks** [ˈbærəks] *n. pl.* **1. : an army barracks** каза́рма **2.** бара́к(і); **regular barracks of a place** не дамы́, а бара́кі
**barracuda** [ˌbærəˈkjuːdə] *n. zool.* бараку́да, марскі́ шчупа́к
**barrage** [ˈbærɑːʒ] *n.* **1.** канана́да, мо́цная/масі́раваная стральба́ **2.** шквал (*перан.*); **a barrage of questions** град пыта́нняў **3.** запру́да, да́мба, гаць, плаці́на
**barrel** [ˈbærəl] *n.* **1.** бо́чка, бо́чачка; **a barrel of beer** бо́чка пі́ва **2.** ба́рэль (*мера сыпкіх, вадкіх і іншых матэрыялаў*) **3.** *mil.* ду́ла, ствол ♦ **a barrel of laughs** *iron.* шмат сме́ху; **get/have smb. over a barrel** *infml.* прыпе́рці/ прыці́снуць каго́-н. да сцяны́
**barrel organ** [ˈbærəlˌɔːgən] *n.* шарма́нка
**barren** [ˈbærən] *adj.* **1.** бе́дны, неўрадлі́вы; **barren land** неўрадлі́вая зямля́ **2.** бясплó дны; **a barren cow** я́лаўка **3.** нецікáвы, ну́дны; бе́дны; **a barren subject** нецікáвая тэ́ма; **barren of ideas** бе́дны на ідэ́і
**barrenness** [ˈbærənnəs] *n.* неўрадлі́васць; бясплó днасць
**barricade**[1] [ˌbærɪˈkeɪd] *n.* барыка́да; перашко́да
**barricade**[2] [ˌbærɪˈkeɪd] *v.* барыкадава́ць; забарыкадава́ць
**barrier**[1] [ˈbæriə] *n.* **1.** бар'е́р; агаро́джа; заста́ва; *Show your ticket at the barrier of the railway station.* Пакажыце білет каля кантрольнага бар'ера чыгуначнай станцыі. **2.** перашко́да (*перан.*); **the language barrier** мо́ўны бар'е́р **3.** мяжа́, рубе́ж, лі́нія падзе́лу; **race barriers** ра́савыя бар'е́ры
**barrier**[2] [ˈbæriə] *v.* адгарадзі́цца бар'е́рам
**barrier reef** [ˌbæriəˈriːf] *n.* кара́лавы рыф
**barring** [ˈbɑːrɪŋ] *prep.* апрача́, акрамя́; за вы́няткам; за выключэ́ннем
**barrister** [ˈbærɪstə] *n. law* ба́рыстар, адвака́т
**barrow**[1] [ˈbærəʊ] *n. BrE* та́чка (*на двух колах*)
**barrow**[2] [ˈbærəʊ] *n.* курга́н, магі́льны на́сып, капе́ц
**Bart** [bɑːt] *скар. ад* **Baronet** баранé т
**bartender** [ˈbɑːtendə] *n.* ба́рмен
**barter**[1] [ˈbɑːtə] *n.* ба́ртар; ме́на
**barter**[2] [ˈbɑːtə] *v.* **(for)** мяня́ць, абме́ньваць; абме́ньвацца тава́рамі
**barter away** [ˌbɑːtərəˈweɪ] *phr.v.* прагандлява́цца; адда́ць са стра́таю
**basal** [ˈbeɪsl] *adj.* асно́ўны, гало́ўны, ба́зісны
**basalt** [ˈbæsɔːlt] *n.* база́льт
**basaltic** [bəˈsɔːltɪk] *adj.* база́льтавы
**base**[1] [beɪs] *n.* **1.** асно́ва; падму́рак; п'едэста́л; **a mountain base** падно́жжа гары́ **2.** зыхо́дны пункт, асно́ва **3.** *mil.* ба́за; **an air base** вае́ннапаве́траная ба́за; **a military/naval base** вае́нная/марска́я ба́за **4.** *ling.* асно́ва; **derivational base** дэрывацы́йная асно́ва **5.** *chem.* асно́ва, асно́ўнае рэ́чыва **6.** *math.* асно́ва (*трохкутніка*) ♦ **get to first base** *infml* уда́ла пача́ць; **off base** *AmE, infml* памылко́ва, няпра́вільна
**base**[2] [beɪs] *adj. fml* **1.** ні́зкі, гане́бны; **a base act** гане́бны ўчы́нак **2. : of base descent** про́стага пахо́джання **3.** фальшы́вы, падро́блены (*пра манеты*) **4.** непаўнава́ртасны, нікчэ́мны
**base**[3] [beɪs] *v.* **1.** засно́ўваць, ствара́ць асно́ву; **be based (on smth.)** абапіра́цца (на што-н.); *The report is based on figures from different sources.* Даклад падмацоўваецца лічбамі з розных крыніц.
**baseball** [ˈbeɪsbɔːl] *n. sport* бейсбо́л
**baseboard** [ˈbeɪsbɔːd] *n. AmE* плі́нтус; лі́штва
**baseless** [ˈbeɪsləs] *adj. fml* неабгрунтава́ны; пусты́; беспадста́ўны; **baseless rumours** пусты́я чу́ткі
**baseline** [ˈbeɪslaɪn] *n.* ба́за; ба́зіс; асно́ва
**basement** [ˈbeɪsmənt] *n.* цо́каль; падва́л, падва́льнае памяшка́нне; сутарэ́нне, склеп
**baseness** [ˈbeɪsnəs] *n.* **1.** по́дласць **2.** нікчэ́мнасць
**bases** [ˈbeɪsiːz] *pl.* → **basis**
**bash**[1] [bæʃ] *n. infml* мо́цны ўдар ♦ **have a bash at smth.** *BrE, infml* паспрабава́ць узя́цца за яку́ю-н. спра́ву, рабі́ць намага́нне
**bash**[2] [bæʃ] *v. infml* **1.** мо́цна біць, лупі́ць **2.** урэ́зацца (*пра машыну*)
**bashful** [ˈbæʃfəl] *adj.* нясме́лы, сарамлі́вы; **a bashful glance** сарамлі́вы по́зірк
**bashfulness** [ˈbæʃfəlnəs] *n.* сарамлі́васць, нясме́ласць
**Basic** [ˈbeɪsɪk] *n. comput.* Бэ́йсік (*мова для напісання камп'ютарных праграм*)

**basic** [ˈbeɪsɪk] *adj.* **1.** аснóўны, галóўны **2.** элементáрны; пачаткóвы
**basically** [ˈbeɪsɪkli] *adv.* галóўным чы́нам, па сýтнасці; прáўду кáжучы
**Basic English** [ˌbeɪsɪkˈɪŋglɪʃ] *n.* бэ́йсік íнгліш (*850 слоў*)
**basics** [ˈbeɪsɪks] *n.* аснóвы; галóўнае ♦ **get/go back to basics** вярнýцца да галóўнага/аснóў
**basil** [ˈbæzl] *n. bot.* базілíк (*таксама прыправа*)
**basilica** [bəˈzɪlɪkə] *n.* базíліка (*тып будынкаў*)
**basilisk** [ˈbæzɪlɪsk] *n.* **1.** васілíск (*міфічная істота*) **2.** *zool.* від я́шчаркі
**basin** [ˈbeɪsn] *n.* **1.** таз, мíса **2.** басéйн (*ракі*)
**basis** [ˈbeɪsɪs] *n.* (*pl.* **bases**) аснóва, падстáва; бáзіс; **on the basis of smth.** на аснóве чагó-н.; на падстáве чагó-н.
**bask** [bɑːsk] *v.* **1.** грэ́цца; **bask in the sun** загарáць **2.** сагравáцца (*якім-н. пачуццём*); **bask in fame** купáцца ў слáве
**basket** [ˈbɑːskɪt] *n.* кош, кóшык; карзíна
**basketball** [ˈbɑːskɪtbɔːl] *n. sport* баскетбóл
**Basque**[1] [bɑːsk, bæsk] *n.* **1.** баск; баскóнка; **the Basques** бáскі **2.** бáскская мóва
**Basque**[2] [bɑːsk, bæsk] *adj.* бáскскі
**bas-relief** [ˌbæsrɪˈliːf] *n.* барэльéф
**bass**[1] [bæs] *n.* (*pl.* **bass**) акýнь
**bass**[2] [beɪs] *n. mus.* **1.** бас, нíзкі мужчы́нскі гóлас **2.** інструмéнт нíзкага рэгíстра; **double bass** кантрабáс, басэ́тля
**bass**[3] [beɪs] *adj.* басóвы; нíзкі (*пра голас, інструмент нізкага рэгістра*)
**bass clef** [ˌbeɪsˈklef] *n. mus.* басóвы ключ
**bass drum** [ˌbeɪsˈdrʌm] *n. mus.* басóвы бýбен, барабáн
**bass guitar** [ˌbeɪsgɪˈtɑː] *n. mus.* бас-гітáра
**basset** [ˈbæsɪt] *n.* бáсет (*парода сабак*)
**bassinet** [ˌbæsɪˈnet] *n. AmE* лю́лька, калы́ска
**bassist** [ˈbeɪsɪst] *n.* бас-гітары́ст
**bassoon** [bəˈsuːn] *n. mus.* фагóт (*музычны інструмент*)
**bassoonist** [bəˈsuːnɪst] *n. mus.* фагаты́ст
**basswood** [ˈbæswʊd] *n. bot.* лíпа амерыкáнская
**bast** [bæst] *n.* лы́ка; **a bast mat** рагóжка; **bast shoes** лáпці
**bastard** [ˈbɑːstəd] *n.* **1.** *dated* пазашлю́бнае дзіця́, байстрýк **2.** *slang, taboo* вы́радак, падóнак
**baste**[1] [beɪst] *v.* палівáць смажанíну (*падчас смажання*)
**baste**[2] [beɪst] *v.* лупíць, лупцавáць
**bastion** [ˈbæstiən] *n. fml* бастыён; апóра (*таксама перан.*)
**bat**[1] [bæt] *n.* кажáн ♦ **as blind as a bat** ≅ сляпы́ як крот; зусíм сляпы́; **like a bat out of hell** *infml* як чорт панёс
**bat**[2] [bæt] *n.* бітá (*у крыкеце і бейсболе*); ракéтка (*у настольным тэнісе*) ♦ **off one's own bat** *BrE, infml* самастóйна; **right off the bat** *AmE, infml* адрáзу, без затры́мкі
**batch** [bætʃ] *n.* **1.** кóлькасць (*людзей*); пáртыя, сéрыя (*тавараў*); **a batch of students** грýпа студэ́нтаў; **a batch of goods** пáртыя тавáраў **2.** вы́печка (*пра печыва*) **3.** *comput.* пакéт дáных; **a batch job** пакéтнае задáнне; **a batch mode** пакéтны рэжы́м
**bated** [ˈbeɪtɪd] *adj.* **:** ♦ **with bated breath** затаíўшы дыхáнне
**bath** [bɑːθ] *n.* **1.** вáнна; **have/take a bath** прымáць вáнну **2.** *pl.* **baths** водалячэ́бніца; купáльня; **Roman baths** ры́мскія купáльні/лáзні; **Turkish baths** турэ́цкая лáзня
**bathe**[1] [beɪð] *n. BrE, fml* **: go for a bathe** плáваць
**bathe**[2] [beɪð] *v.* **1.** прамывáць (*вочы, рану і да т.п.*) **2.** *AmE* купáць; купáцца (*у ванне*) **3.** *dated* купáцца; плáваць у рацэ́/мóры
**bather** [ˈbeɪðə] *n.* **1.** *BrE* плывéц; плыўчы́ха **2.** *pl.* **bathers** *AustralE* купáльнік
**bathhouse** [ˈbɑːθhaʊs] *n.* **1.** лáзня **2.** *AmE* раздзявáльня
**bathing** [ˈbeɪðɪŋ] *n.* купáнне
**bathing cap** [ˈbeɪðɪŋˌkæp] *n.* шáпачка для купáння
**bathing costume** [ˈbeɪðɪŋˌkɒstjuːm] *n. BrE, dated* купáльны касцю́м
**bathing suit** [ˈbeɪðɪŋˌs(j)uːt)] *n. AmE or dated* купáльнік
**bath mat** [ˈbɑːθmæt] *n.* дыванóк для вáнны
**bathrobe** [ˈbɑːθrəʊb] *n.* купáльны халáт
**bathroom** [ˈbɑːθruːm] *n.* **1.** вáнны пакóй **2.** *AmE* туалéт
**bathtub** [ˈbɑːθtʌb] *n. AmE* вáнна
**batiste**[1] [bætˈiːst, bəˈtiːst] *n. textile* баты́ст
**batiste**[2] [bætˈiːst, bəˈtiːst] *adj.* баты́ставы
**batman** [ˈbætmən] *n.* (*pl.* **-men**) *BrE* ардынáрац, веставы́, пасы́льны
**baton** [ˈbætɒn] *n.* **1.** дырыжóрская пáлачка **2.** дубíнка паліцэ́йскага **3.** *sport* эстафéтная пáлачка
**batsman** [ˈbætsmən] *n.* (*pl.* **-men**) гулéц у крыкéт, бейсбóл
**battalion** [bəˈtæliən] *n.* **1.** *BrE, mil.* батальён **2.** *fml* вялíкая кóлькасць людзéй
**batten** [ˈbætn] *v.* **: batten on smb.** разжывáцца (*за кошт іншых*)
**batter**[1] [ˈbætə] *n.* **1.** цéста (*кляр*) **2.** мéсіва, ліпýчая гразь
**batter**[2] [ˈbætə] *v.* мясíць цéста для пéчыва

**batter**[3] [ˈbætə] *v.* **(at/on)** біць, дубáсіць, лупцавáць; **batter to death** (ад)дубáсіць да смéрці

**battered** [ˈbætəd] *adj.* **1.** разбíты; знóшаны, панóшаны; **a battered old car** старáя разбíтая машы́на **2. : a battered baby syndrome** сіндрóм жóрсткіх аднóсін да дзяцéй

**battery** [ˈbætəri] *n.* **1.** *electr.* батарэ́йка; батарэ́я **2.** *mil.* батарэ́я

**battle**[1] [ˈbætl] *n.* **1.** бíтва, бой; **the Battle of Britain** *hist.* бíтва за Áнглію; **killed in battle** загíнуў на вайнé **2.** барацьбá; **the battle of life/the battle to survive** барацьбá за існавáнне; **a battle of wits** спабóрніцтва дýмак ♦ **do battle with smb. over smth.** змагáцца з кім-н. за што-н.; **half the battle** зарýка пóспеху

**battle**[2] [ˈbætl] *v.* **(with/against)** змагáцца; **battle against the wind** ісцí сýпраць вéтру, змагáцца з вéтрам

**battlecruiser** [ˈbætlkruːzə] *n.* крэ́йсер

**battlefield** [ˈbætlfiːld] *n.* пóле бíтвы; **battlefield atomic weapon** *mil.* тактычная áтамная збрóя

**battleground** [ˈbætlgraʊnd] *n.* **1.** = **battlefield 2.** тэáтр ваéнных дзéянняў, раён бóю (*таксама перан.*)

**battlement** [ˈbætlmənt] *n.* зубчáстая сцянá, сцянá з байнíцамі

**battleship** [ˈbætlʃɪp] *n. mil.* ваéнны карабéль

**batty** [ˈbæti] *adj. infml* бязглýзды, недарэ́чны

**baulk** [bɔːk] *n. BrE* **1.** не хацéць; вагáцца, хістáцца **2.** упірáцца, наравíцца (*пра каня*)

**bauxite** [ˈbɔːksaɪt] *n. min.* баксíт

**bawdy** [ˈbɔːdi] *adj. dated* непрыстóйны, бессарóмны, распýсны

**bawl** [bɔːl] *v.* крычáць, раўцí, гарлáніць, гарлапáніць

**bawl out** [ˌbɔːlˈaʊt] *phr.v. infml* зрабíць вымóву, накрычáць

**bay**[1] [beɪ] *n.* бýхта; залíў; **Hudson Bay** Гудзóнаў залíў; **the Bay of Bengal** Бенгáльскі залíў

**bay**[2] [beɪ] *n.* брахáнне, брэх, гáўканне ♦ **an animal at bay** загнáны (сабáкамі) звер; **be/stand at bay** быць у безвыхóдным станóвішчы; **hold/keep smb. at bay** не падпускáць кагó-н. да сябé

**bay**[3] [beɪ] *v.* брахáць, гáўкаць ♦ **bay at the moon** гáўкаць на пóўню, выць на мéсяц

**bay**[4] [beɪ] *n.* нíша; паглыблéнне ў сцянé; устýп; праём; **a horse bay** стóйла, зáгарадка для канá; **a sick bay** шпітáльная палáта

**bay**[5] [beɪ] *n., adj.* гняды́ (конь)

**bay**[6] [beɪ] *n.* **1.** *bot.* лаўр, лаўрóвае дрэ́ва **2.** *pl.* **bays** лаўрóвы вянóк; лáўры

**bay leaf** [ˈbeɪliːf] *n.* лаўрóвы ліст (*прыправа*)

**bayonet**[1] [ˈbeɪənət] *n.* штык

**bayonet**[2] [ˈbeɪənət, ˌbeɪəˈnet] *v.* прабівáць штыкóм

**bazaar** [bəˈzɑː] *n.* **1.** базáр (*усходні*) **2.** дабрачы́нны базáр

**BBC** [ˌbiːbiːˈsiː] (*скар. ад* **British Broadcasting Corporation**) Бі-Бі-Сі

**BBQ** [ˈbɑːbɪkjuː] (*скар. ад* **barbeque**) барбекю́

**BC** [ˌbiːˈsiː] (*скар. ад* **before Christ**) да нáшай э́ры

**be** [biː, bi, bɪ] *v.* (*past* **was, were**; *p.p.* **been**) (*present* **am, is, are**) **1.** быць, існавáць **2.** быць, знахóдзіцца **3.** *ужываецца як звязка*; *He is a teacher.* Ён настаўнік. **4.** *ужываецца для ўтварэння дзеяслоўных форм; не перакладаецца* ♦ ***How are you?*** Як вы жывяце?; Як маецеся?

**be away** [ˌbiːəˈweɪ] *phr.v.* адсýтнічаць; быць у ад'éздзе

**be back** [ˌbiːˈbæk] *phr.v.* вярнýцца

**be in** [ˌbiːˈɪn] *phr.v.* быць дóма (*у памяшканні*)

**be on** [ˌbiːˈɒn] *phr.v.* ісцí (*пра фільм, спектакль і да т.п.*)

**be out** [ˌbiːˈaʊt] *phr.v.* не быць дóма (на мéсцы)

**be over** [ˌbiːˈəʊvə] *phr.v.* скóнчыцца, кóнчыцца (*пра ўрок, фільм і да т.п.*)

**beach** [biːtʃ] *n.* марскí пляж; **a pebble beach** пляж з гáлькі

**beacon** [ˈbiːkən] *n.* мая́к; **beacons of hope** *poet.* прóмні надзéі

**bead** [biːd] *n.* **1.** пáцерка; **thread beads** нанíзваць пáцеркі **2.** *pl.* **beads** *eccl.* ружáнец; **count/say/tell one's beads** малíцца з ружáнцам **3.** крóпля (*поту, крыві і да т.п.*)

**beady** [ˈbiːdi] *adj.* як пáцеркі; **beady eyes** вóчыпáцеркі; **keep a beady eye on smb.** падазрóна сачы́ць за кім-н.

**beak** [biːk] *n.* **1.** дзю́ба **2.** *iron.* нос кручкóм

**beam**[1] [biːm] *n.* **1.** прамéнь, прóмень; **a beam of sunlight** сóнечны прамéнь; **a beam of comfort** прóбліск надзéі, нéйкая ўцéха; **the beams of a smile** прамянíстая ўсмéшка; рот да вушэ́й **2.** пучóк прóмняў; **on full beam** з пóўным святлóм (*пра машыну*) **3.** брус; бэ́лька; **a balance beam** *sport* бервянó ♦ **off beam** *infml* памылкóвы

**beam**[2] [biːm] *v.* **1. (at)** свяцíць, ззяць; усміхáцца прамянíстай усмéшкай; *The morning sun beamed down on us.* Зранку сонца ласкава нам усміхнулася. **2.** накірóўваць (*пра радыё*); **beam a programme at some country** вéсці накіравáную перадáчу на якýю-н. краíну

**beaming** [ˈbiːmɪŋ] *adj.* **1.** зіхóткі, прамянíсты **2.** са свéтлай усмéшкай; рáдасны

**bean** [biːn] *n.* боб; **French beans** фасóля ♦ **full of beans** вéльмі энергíчны; **not have a bean**

*infml* не мець ні капе́йчыны; **spill the beans** вы́даць сакрэ́т, прагавары́цца

**bear**[1] [beə] *n.* **1.** мядзве́дзь; мядзве́дзіца; **a bear's cub** медзведзяня́, медзведзянё **2.** няўклю́да (*пра чалавека*) **3.** *finance* біржавы́ ма́клер, які́ працу́е на паніжэ́нне; **a bear market** ры́нак з тэндэ́нцыяй да паніжэ́ння ♦ **like a bear with a sore head** *infml* злы як д'я́бал; глядзі́ць як звер

**bear**[2] [beə] *v.* **(bore, borne) 1.** выно́сіць, зно́сіць, цярпе́ць, трыва́ць; *She couldn't bear a thought of losing him.* Яна не магла змірыцца з думкаю, што страціць яго; **bear an operation** перане́сці апера́цыю **2.** насі́ць, не́сці; **bear in mind** мець на ўва́зе; **bear responsibility** не́сці адка́знасць; **bear the blame** быць вінава́тым **3.** пака́зваць, мець; *His latest work doesn't bear comparison.* Яго апошняя праца не мае роўных; **bear resemblance to** быць падо́бным да; **bear no relation to** не мець дачыне́ння да **4.** раджа́ць, нараджа́ць; *She bore him a son*. Яна нарадзіла яму сына. **be born** нарадзі́цца ♦ **be born yesterday** як бы́ццам то́лькі ўчо́ра нарадзі́ўся (*наіўны*)

**bear away** [ˌbeərəˈweɪ] *phr.v.* адно́сіць, адво́зіць

**bear down** [ˌbeəˈdaʊn] *phr.v.* **(on)** кіда́цца, накі́двацца, налята́ць, напада́ць, атакава́ць

**bear out** [ˌbeərˈaʊt] *phr.v.* падтры́млівацъ, падмацо́ўваць;

**bear up** [ˌbeərˈʌp] *phr.v.* трыма́цца сто́йка, не злама́цца, вы́трымаць

**bearable** [ˈbeərəbl] *adj.* дапушча́льны; цярпі́мы; нядрэ́нны, ніштава́ты; *The heat is not bearable!* Спякота – нельга вытрываць!

**bearberry** [ˈbeəberi] *n. bot.* талакня́нка

**bearcat** [ˈbeəkæt] *n. zool.* па́нда

**beard** [bɪəd] *n.* барада́

**bearded** [ˈbɪədɪd] *adj.* барада́ты

**bearer** [ˈbeərə] *n.* **1.** насі́льшчык; **a bearer of dispatches** дыпламаты́чны кур'е́р; **a bearer of rumours** пляткáр; пляткáрка; **a standard bearer** сцягано́сец; **a stretcher bearer** саніта́р (*які насіць насілкі*) **2.** но́сьбіт; **a bearer of tradition** той, хто захо́ўвае трады́цыі

**bearing** [ˈbeərɪŋ] *n.* **1. (on)** адно́сіны; аспе́кт, бок, падыхо́д; *Regular exercise has a direct bearing on health.* Пастаянныя практыкаванні маюць прамыя адносіны да здароўя. **2.** паво́дзіны, мане́ра трыма́цца; паста́ва, вы́праўка; *They loved her for her kindly bearing.* Яны любілі яе за дабрату. **3.** *tech.* напра́мак, арыента́цыя; **a magnetic bearing** магні́тны а́зімут **4.** *tech.* падшы́пнік ♦ **get/find/take one's bearings** вызнача́ць сваё месцазнахо́джанне, арыентава́цца; **lose one's bearings** заблудзі́цца, згубі́ць арыента́цыю

**bearskin** [ˈbeəskɪn] *n.* **1.** шку́ра/фу́тра мядзве́дзя **2.** фу́травы кі́вер (*англійскіх гвардзейцаў*)

**beast** [biːst] *n.* **1.** *lit.* звер; **a wild beast** *fml* дзі́кі звер; **a beast of prey** драпе́жнік **2.** *infml* звяру́га, скаці́на, свіння́ **3. : a beast of a job** *infml* ве́льмі непрые́мная рабо́та

**beastly** [ˈbiːstli] *adj. BrE, infml* непрые́мны, жахлі́вы, бры́дкі, брыдо́тны; *What beastly weather!* Надвор'е – сабаку не выганіш!; Не надвор'е, а жах!

**beat** [biːt] *v.* **(beat, beaten) 1.** біць, сту́каць **2.** біць, збіва́ць, лупцава́ць; **beaten to death** збі́ты да сме́рці **3.** быць ле́пшым; *Nothing beats home cooking.* Нічога не параўнаеш з хатняй ядой. **4.** бі́цца, пульсава́ць (*пра сэрца і да т.п.*) **5.** узбіва́ць (*вяршкі, яйкі і да т.п.*) ♦ **beat about the bush** *BrE* разво́дзіць антымо́ніі; **beat the air** ≅ таўчы́ ваду́ ў сту́пе; **beat the clock** зако́нчыць за́гадзя (*што-н.*); **beat one's way** *AmE, infml* е́хаць за́йцам; **off the beaten track** у чо́рта на рага́х; невядо́ма дзе

**beaten** [ˈbiːtn] *p.p.* → **beat**

**beaten-up** [ˌbiːtnˈʌp] *adj.* разбі́ты, зно́шаны, што мно́гае пабА́чыў; **his beaten-up old car** *infml* яго стара́я разбі́тая машы́на

**beater** [ˈbiːtə] *n.* **1.** выбіва́лка; узбіва́лка; **an egg beater** ве́нчык для ўзбіва́ння я́ек **2.** *AmE* драндуле́т (*пра стары аўтамабіль*)

**beatific** [ˌbiːəˈtɪfɪk] *adj. fml* ве́льмі шчаслі́вы, шча́сны

**beatification** [biˌætɪfɪˈkeɪʃn] *n.* кананіза́цыя

**beatify** [biˈætɪfaɪ] *v.* кананізава́ць

**beating** [ˈbiːtɪŋ] *n.* **1.** біццё, лупцо́ўка **2.** *infml* разгро́м **3.** біццё (*сэрца*)

**beatnik** [ˈbiːtnɪk] *n.* бі́тнік; стыля́га

**beau** [bəʊ] *n.* (*pl.* **beaus** *or* **beaux**) *dated* кавале́р

**beautician** [bjuːˈtɪʃn] *n.* касмето́лаг

**beautiful** [ˈbjuːtɪfəl] *adj.* прыго́жы, цудо́ўны

**beautify** [ˈbjuːtɪfaɪ] *v.* упрыго́жваць, рабі́ць больш прыго́жым

**beauty** [ˈbjuːti] *n.* **1.** краса́, хараство́, прыгажо́сць; **a beauty contest** ко́нкурс прыгажо́сці; **a beauty queen** карале́ва прыгажо́сці; **a beauty sleep** сон днём (*перад вечарынай, балем і да т.п.*); **a beauty spot** прыго́жая мясці́на **2.** красу́ня, прыгажу́ня

**beaux** [bəʊz] *pl.* → **beau**

**beaver**[1] [ˈbiːvə] *n.* **1.** *zool.* бабёр **2.** працаві́к, клапату́н; **work like a beaver** працава́ць як вол **3.** фу́тра бабра́; бабро́вая ша́пка

**beaver**[2] [ˈbiːvə] *v.* **: beaver away (at)** *infml* заўзя́та/шчы́ра працава́ць, завіха́цца
**beavery** [ˈbiːvəri] *n.* бабро́ўнік
**became** [bɪˈkeɪm] *past* → **become**
**because** [bɪˈkɒz] *conj.* таму́ што, бо
**because of** [bɪˈkɒzəv] *prep.* з прычы́ны, з-за, праз; **because of a lack of money** з-за недахо́пу гро́шай
**beckon** [ˈbekn] *v.* **1. (to)** закліка́ць; зама́ньваць **2.** ва́біць; прыма́ньваць; *The clear blue sea beckoned us.* Празрысты блакіт мора вабіў нас.
**becloud** [bɪˈklaʊd] *v.* хма́рыцца
**become** [bɪˈkʌm] *v.* **(became, become) 1.** станаві́цца, рабі́цца **2.** пасава́ць, быць да тва́ру; *This dress becomes you.* Гэтая сукенка вам пасуе (да твару).
**becoming** [bɪˈkʌmɪŋ] *adj. fml* **1.** які́ пасу́е, які́ да тва́ру **2.** адпаве́дны, нале́жны; *It was not very becoming behaviour for a teacher.* Паводзіны настаўніка не адпавядалі норме.
**BEd**, **B.ed.** [ˌbiːˈed] *n.* (*скар. ад* **Bachelor of Education**) бакала́ўр у галіне́ педаго́гікі
**bed** [bed] *n.* **1.** ло́жак, пасце́ль; **in bed** у пасце́лі; **go to bed** кла́сціся/ лажы́цца спаць; **make the bed** засціла́ць ло́жак; **be confined to bed** быць прыкава́ным да пасце́лі (*цяжка хварэць*); **take to one's bed** зле́гчы (*захварэць*) **2.** града́, гра́дка; **a flower bed** клу́мба **3.** дно (*ракі, акіяна і да т.п.*) ♦ **not a bed of roses** нялёгкая до́ля, ця́жкі лёс; **get out of bed on the wrong side** *BrE* уста́ць з ле́вай нагі́; **go to bed with smb.** *infml* пераспа́ць з кім-н.; **you've made your bed and you must lie on it** як пасце́леш, так і вы́спішся; ≅ што пасе́еш, то́е і пажне́ш
**bed and breakfast** [ˌbedənˈbrekfəst] *n. BrE* начле́г і сняда́нак; *There were several good bed and breakfasts in the area.* У гэтым раёне было некалькі добрых гатэляў, якія прапаноўвалі начлег і сняданак.
**bedbug** [ˈbedbʌg] *n.* клоп
**bedclothes** [ˈbedkləʊðz] *n.* спа́льныя рэ́чы
**bedcover** [ˈbedkʌvə] *n.* пакрыва́ла на ло́жак, ка́па
**bedding** [ˈbedɪŋ] *n.* **1.** пасце́льныя прынале́жнасці **2.** по́дсціл, по́дсцілка (*для жывёлы*)
**bedding plant** [ˈbedɪŋˌplɑːnt] *n.* аднагадо́вая расл́іна на вы́садку
**bedlam** [ˈbedləm] *n.* **1.** бедла́м, хао́с **2.** *archaic* вар'я́цкі дом
**bedlinen** [ˈbedlɪnɪn] *n.* пасце́льная бялі́зна
**Bed(o)uin** [ˈbeduɪn] *n.* (*pl.* **Bed(o)uin**) бедуі́н; качэ́ўнік
**bedpan** [ˈbedpæn] *n. med.* падкладно́е су́дна
**bedridden** [ˈbedrɪdn] *adj.* прыкава́ны да ло́жка хваро́баю
**bedrock** [ˈbedrɒk] *n.* **1.** ба́зіс, асно́ва; гало́ўныя пры́нцыпы; фа́кты; **get down to/reach (solid) bedrock** дакапа́цца да су́тнасці **2.** *geol.* карэ́нная паро́да, скала́
**bedroom** [ˈbedruːm] *n.* спа́льня
**bedside**[1] [ˈbedsaɪd] *n.* ме́сца каля́ ло́жка; **at/by the bedside** ля ло́жка; **bedside manner** ле́карскі такт; мя́ккая мане́ра
**bedside**[2] [ˈbedsaɪd] *adj.* **: a bedside table** начны́ сто́лік, ту́мбачка; **the bedside Bible** Бі́блія, яка́я пастая́нна ляжы́ць на начны́м сто́ліку
**bedsit, bedsitter** [ˈbedsɪt(ə)] *n.* жылы́ пако́й (*спальня і гасціны пакой разам*)
**bedsore** [ˈbedsɔː] *n.* про́лежань
**bedspread** [ˈbedspred] *n.* пакрыва́ла на ло́жак, ка́па
**bedtime** [ˈbedtaɪm] *n.* час для сну; *It's past bedtime.* Даўно пара спаць.
**bedtime story** [ˈbedtaɪmˌstɔːri] *n.* ка́зка (*дзецям перад сном*)
**bedwetting** [ˈbedwetɪŋ] *n. med.* начно́е нетрыма́нне мачы́
**bee** [biː] *n.* пчала́ ♦ **as busy as a bee** працаві́ты як пчо́лка/як мура́шка; руплі́вы; **the bee's knees** *infml* у́нікум; шы́шка (*пра чалавека*); **have a bee in one's bonnet** *infml* ≅ не ўсе до́ма; му́ха ўкусі́ла
**beech** [biːtʃ] *n. bot.* бук
**beechmast** [ˈbiːtʃmɑːst] = **beechnut**
**beechnut** [ˈbiːtʃnʌt] *n.* бу́кавы арэ́шак
**beef** [biːf] *n.* я́лавічына; **beef raising** мясна́я жывёлагадо́ўля; **beef bacon** салёная і вя́леная я́лавічына; **horse beef** кані́на; **corned beef** тушо́нка з я́лавічыны
**bee-farming** [ˈbiːfɑːmɪŋ] *n.* пчалаво́дства
**beefburger** [ˈbiːfbɜːgə] *n. BrE* га́мбургер
**beefeater** [ˈbiːfiːtə] *n.* **1.** салда́т ахо́вы ло́нданскага Та́ўэра **2.** *AmE, slang* англіча́нін
**beefsteak** [ˈbiːfsteɪk] *n.* біфштэ́кс
**beefy** [ˈbiːfi] *adj.* **1.** мясны́ **2.** мускулі́сты
**beehive** [ˈbiːhaɪv] *n.* ву́лей
**bee-keeper** [ˈbiːˌkiːpə] *n.* пчалаво́д, пчаля́р
**bee-keeping.** [ˈbiːˌkiːpɪŋ] *n.* развядзе́нне пчол
**been** [biːn, bɪn] *p.p.* → **be**
**beep** [biːp] *v.* гусці́, гудзе́ць; сігна́ліць
**bee plant** [ˈbiːplɑːnt] *n. bot.* медано́с
**beer** [bɪə] *n.* пі́ва; **ginger beer** імбі́рнае пі́ва; *Would you like a beer?* Не хочаш (кухаль) піва?
**beeswax** [ˈbiːzwæks] *n.* воск
**beet** [biːt] *n.* бура́к; буракі́ (*корм для жывёлы*); **sugar beet** цукро́выя буракі́; **beet greens** бацві́нне; **beet farming** буракаво́дства

**beetle** [ˈbiːtl] *n.* жук; **a May beetle** хрушч ♦ **as blind as a beetle** ≅ сляпы́ як крот

**beetroot** [ˈbiːtruːt] *n. BrE* бура́к (*караняплод*)

**befall** [bɪˈfɔːl] *v.* **(befell, befallen)** *lit.* здара́цца (*з кім-н.*), выпада́ць (*на чыю-н. долю*); *What befell him?* Што з ім сталася?

**befallen** [bɪˈfɔːlən] *p.p.* → **befall**

**befell** [bɪˈfel] *past* → **befall**

**befit** [bɪˈfɪt] *v. fml* падыхо́дзіць, пасава́ць; **as befitted a visitor of her status** як і нале́жала наве́двальніцы яе́ ста́тусу

**before¹** [bɪˈfɔː] *adv.* ране́й; **long before** задо́ўга; **the day before** напярэ́дадні

**before²** [bɪˈfɔː] *prep.* **1.** пе́рад; **before him** пе́рад ім **2.** да; **before the war** да вайны́; **the day before yesterday** пазаўчо́ра

**before³** [bɪˈfɔː] *conj.* ране́й як (чым), перш як (чым); *Do it before you forget.* Зрабі гэта, пакуль не забыў.

**beforehand** [bɪˈfɔːhænd] *adv.* за́гадзя, зара́ней; напе́рад

**befriend** [bɪˈfrend] *v.* ста́віцца па-сябро́ўску; памага́ць, спрыя́ць; **befriend one another** дапамага́ць адно́ аднаму́

**beg** [beg] *v.* **1.** прасі́ць, упро́шваць, малі́ць; *She begged me for help.* Яна прасіла мяне дапамагчы; **beg permission** прасі́ць дазво́лу **2.** жабрава́ць; **beg one's bread** жыць на пада́чках ♦ **beg the question** 1) напро́шваецца пыта́нне 2) галасло́ўна сцвярджа́ць (*што-н.*); **I beg your pardon!** *fml* Выбачайце!

**began** [bɪˈgæn] *past* → **begin**

**begat** [bɪˈgæt] *past, archaic* → **beget**

**beget** [bɪˈget] *v.* **(begot, begot;** *archaic* **begat, begotten) 1.** *lit.* дава́ць жыццё; быць ба́цькам; *Abraham begat Isaac. bibl.* Аўраам нарадзіў Ісаака. **2.** *fml* выкліка́ць, спараджа́ць; *War begets misery.* Вайна прыносіць пакуты.

**beggar** [ˈbegə] *n.* жабра́к; **a beggar woman** жабра́чка; **nice little beggars** *joc.* мале́нькія шэ́льмы (*пра дзяцей, звяркоў*) ♦ **beggars can't be choosers** жабракі́ не выбіра́юць

**begin** [bɪˈgɪn] *v.* **(began, begun) 1.** пачына́ць, распачына́ць; пачына́цца; **begin on smth.** бра́цца за што-н.; **begin the score** адкры́ць лік; *Where to begin?* З чаго пачаць? **2.** засно́ўваць, ствара́ць; **begin a club** адкры́ць клуб ♦ **to begin with** найпе́рш, перш за ўсё, перш-на́перш, па-пе́ршае

**beginner** [bɪˈgɪnə] *n.* пачына́льнік; пачатко́вец; навічо́к; **English for beginners** англі́йская мо́ва для пачатко́ўцаў

**beginning** [bɪˈgɪnɪŋ] *n.* пача́так; **at the beginning of the year** у пача́тку го́да; **from beginning to end** з пача́тку да канца́; **in the beginning** спача́тку ♦ **the beginning of the end** пача́так канца́; **a good beginning is half the battle** ≅ до́бры пача́так – глядзі́, ско́ра канча́так; **a bad beginning makes a bad ending** які́ пача́так, такі́ і кане́ц

**begonia** [bɪˈgəʊniə] *n. bot.* бяго́нія

**begot** [bɪˈgɒt] *past, p.p.* → **beget**

**begotten** [bɪˈgɒtn] *p.p.*, *archaic* → **beget**

**begrudge** [bɪˈgrʌdʒ] *v.* **1.** зайздро́сціць **2.** шкадава́ць, скупі́цца

**begun** [bɪˈgʌn] *p.p.* → **begin**

**behalf** [bɪˈhɑːf] *n.* **: on behalf of** ад імя́; **on behalf of my colleagues** ад імя́ маіх кале́г

**behave** [bɪˈheɪv] *v.* трыма́ць (паво́дзіць) сябе́; **behave like a hog** паво́дзіць сябе́ па-сві́нску; *Behave yourself!* Паводзь сябе добра!

**behavior** [bɪˈheɪvjə] *Ame* = **behaviour**

**behaviour** [bɪˈheɪvjə] *n.* **1.** паво́дзіны; мане́ры; **a behaviour report** адзна́ка за паво́дзіны (*школьніка*); **a guide to correct behaviour** дапамо́жнік па культу́ры паво́дзін **2. (to/towards)** адно́сіны, ста́ўленне; **gentle behaviour towards children** мя́ккае ста́ўленне да дзяце́й

**behaviourism** [bɪˈheɪvjərɪzəm] *n. psychol.* біхевіяры́зм

**behaviour therapy** [bɪˌheɪvjəˈθerəpi] *n. psychol.* працатэрапі́я

**behead** [bɪˈhed] *v.* адсяка́ць галаву́; абезгало́ўліваць (*караць смерцю*)

**beheld** [bɪˈheld] *past, p.p.* → **behold**

**behemoth** [bɪˈhiːmɒθ] *n. fml* велізна́рная арганіза́цыя; монстр

**behest** [bɪˈhest] *n. fml* **: at smb.'s behest** па чыі́м-н. патрабава́нні/зага́дзе

**behind¹** [bɪˈhaɪnd] *n. infml* зад, за́дніца

**behind²** [bɪˈhaɪnd] *adv.* ззаду; **leave smth. behind** пакіда́ць што-н., забы́цца ўзяць; **be behind** адстава́ць; **look behind** аглядва́цца;

**behind³** [bɪˈhaɪnd] *prep.* ззаду, за, па-за; *The sun went behind the clouds.* Сонца схавалася за хмары; *He has somebody behind him.* За ім нехта стаіць (*падтрымлівае*); **behind time** по́зна; *The train was **behind schedule**.* Цягнік спазніўся; *What is behind all this?* Што за ўсім гэтым стаіць?

**behold** [bɪˈhəʊld] *v.* **(beheld)** *lit. or dated* глядзе́ць, сузіра́ць

**beige¹** [beɪʒ] *n.* ко́лер бэж

**beige²** [beɪʒ] *adj.* бэ́жавы

**being** [ˈbiːɪŋ] *n.* **1.** быццё, існава́нне, жыццё; **bring into being** ствара́ць; **come into being** узні́кнуць, з'яві́цца на (бе́лы) свет **2.** істо́та, стварэ́нне; **a human being** чалаве́к; **the Supreme Being** *relig.* Усявы́шні

**belabor** [bɪˈleɪbə] *AmE* = **belabour**
**belabour** [bɪˈleɪbə] *v.* **:** ♦ **belabour the point** *fml* дака́зваць відаво́чнае
**Belarusian¹** [ˌbeləˈrusiən] *n.* **1.** белару́с; белару́ска; **the Belarusians** белару́сы **2.** белару́ская мо́ва
**Belarusian²** [ˌbeləˈrusiən] *adj.* белару́скі; **Belarusian Language Society** Тавары́ства белару́скай мо́вы
**belated** [bɪˈleɪtɪd] *adj.* запо́знены; **a belated present** падару́нак не ў час; запо́знены падару́нак
**belch** [beltʃ] *v.* **1.** (і)рва́ць, паку́таваць ад ірво́ты, ванітава́ць **2.** выќідваць (*агонь, дым і да т.п.*); вывярга́ць (*лаву, попел і да т.п.*)
**belfry** [ˈbelfri] *n.* звані́ца; **the belfry of the church** звані́ца царквы́
**Belgian¹** [ˈbeldʒən] *n.* бельгі́ец; бельгі́йка; **the Belgians** бельгі́йцы
**Belgian²** [ˈbeldʒən] *adj.* бельгі́йскі
**belie** [bɪˈlaɪ] *v. fml* ствара́ць памылко́вае ўяўле́нне; супярэ́чыць, пярэ́чыць
**belief** [bɪˈliːf] *n.* **1.** ве́ра, даве́р; перакана́нне; **hard of belief** недаве́рлівы; **light of belief** легкаве́рны **2.** *relig.* ве́ра, веравызна́нне; **belief in God** ве́ра ў Бо́га; **heathen beliefs** язы́чніцкія ве́раванні ♦ **beyond belief** неверагóдна
**believe** [bɪˈliːv] *v.* **1.** ве́рыць; *Don't believe a word of him!* Не вер ніводнаму яго слову! **2.** ду́маць, меркава́ць, лічы́ць ♦ **make believe** рабі́ць вы́гляд, прыкі́двацца; **believe it or not** *infml* вер ці не вер; **seeing is believing** уба́чыць – (зна́чыць) паве́рыць
**believer** [bɪˈliːvə] *n.* ве́рнік; **be a firm/great believer in smth.** цвёрда ве́рыць у што-н.
**belittle** [bɪˈlɪtl] *v.* прыніжа́ць, змянша́ць
**bell** [bel] *n.* **1.** звон; звано́чак; **as clear as a bell** чы́сты як звано́чак (*пра голас*) **2.** звано́к; **answer the bell** адкры́ць дзве́ры на звано́к; *There's the bell!* Нехта звоніць! ♦ **give smb. a bell** *BrE, infml* патэлефанава́ць каму́-н.
**belladonna** [ˌbeləˈdɒnə] *n. bot.* белadó́нна
**bell-boy** [ˈbelbɔɪ] *n. AmE* калідо́рны (*у гатэлі*)
**belle** [bel] *n.* прыгажу́ня, красу́ня
**belles-lettres** [ˌbelˈletrə] *n. pl.* маста́цкая літарату́ра, белетры́стыка
**bellet(t)rist** [ˌbelˈletrɪst] *n.* белетры́ст
**bellflower** [ˈbelflaʊə] *n. bot.* звано́чак
**bellicose** [ˈbelɪkəʊs] *adj. fml* ваяўні́чы, агрэсі́ўны; **a bellicose tribe** ваяўні́чае пле́мя
**bellied** [ˈbelid] *adj.* пуза́ты
**belligerence** [bəˈlɪdʒərəns] *n.* ваяўні́часць
**belligerent** [bəˈlɪdʒərənt] *adj.* **1.** *fml* які́ знахо́дзіцца ў ста́не вайны́; **the belligerent countries** краі́ны, які́я знахо́дзяцца ў ста́не вайны́ **2.** агрэсі́ўны, ваяўні́чы; **speak in a belligerent tone** гавары́ць пагро́злівым то́нам
**bell-jar** [ˈbelˌdʒɑː] *n.* ко́лба
**bellow¹** [ˈbeləʊ] *n.* рык, роў (*таксама перан.*)
**bellow²** [ˈbeləʊ] *v.* **1.** раўці́, рыка́ць (*пра жывёл*) **2. (at)** раўці́, лямантава́ць, гарлапа́ніць
**bellows** [ˈbeləʊz] *n. pl.* мех (*кавальскі*); мяхі́ (*музычных інструментаў*)
**bell push** [ˈbelpʊʃ] *n. BrE* кно́пка званка́
**bell-ringer** [ˈbelˌrɪŋə] *n.* звана́р
**belly** [ˈbeli] *n.* жыво́т; пу́за; чэ́рава; бру́ха (*таксама перан.*); **a belly landing** паса́дка на фюзеля́ж (*пра самалёт*); **with an empty belly** гало́дны; **on an empty belly** на́шча
**bellyache¹** [ˈbelieɪk] *n. infml* боль у жываце́
**bellyache²** [ˈbelieɪk] *v. infml* ска́рдзіцца, ныць, скуго́ліць
**belly button** [ˈbeliˌbʌtn] *n. infml* пупо́к
**belly dance** [ˈbeliˌdɑːns] *n.* та́нец жывата́
**bellyful** [ˈbelifəl] *n.* ♦ **have had a bellyful of smth./smb.** *infml* **:** *I've had a bellyful of your moaning.* Я сыты па горла тваімі нараканнямі.
**belong** [bɪˈlɒŋ] *v.* **(to)** нале́жаць, быць ча́сткаю
**belongings** [bɪˈlɒŋɪŋz] *n. pl.* рэ́чы; мана́ткі, пажы́ткі; **personal belongings** асабі́стыя рэ́чы
**beloved¹** [bɪˈlʌvɪd] *n. dated or lit.* лю́бы, каха́ны; лю́бая, каха́ная
**beloved²** [bɪˈlʌvd] *adj. fml* **1.** любі́мы **2.** [bɪˈlʌvɪd] **: in memory of our beloved son, John** у па́мяць на́шага любі́мага сы́на Джо́на
**below¹** [bɪˈləʊ] *adv.* **1.** ніжэ́й, ні́жай; уні́зе; **far below** далёка ўні́зе **2.** уні́з; **go below** спуска́цца ўні́з; **see below** глядзі́ ніжэ́й (*заўвага*)
**below²** [bɪˈləʊ] *prep.* ніжэ́й, пад; **below zero** ніжэ́й нуля́, ніжэ́й за нуль; **below sea level** ніжэ́й узро́ўню мо́ра; *It is below you.* Гэта не варта вас.
**belt¹** [belt] *n.* **1.** по́яс; пас, рэ́мень, папру́жка; **do up/fasten a belt** завя́зваць, зашпі́льваць по́яс/ папру́гу **2.** по́яс, зо́на, раён; паласа́; **a shelter belt** полеахо́ўная лясна́я паласа́; *We live in the commuter belt.* Мы жывём у прыгарадзе. ♦ **below the belt** (уда́р) ніжэ́й по́яса; **have smth. under one's belt** *infml* мець не́шта за плячы́ма; набы́ць, атрыма́ць не́шта
**belt²** [belt] *v.* падпяразваць по́ясам
**beltway** [ˈbeltweɪ] *n. AmE* кальцава́я даро́га
**beluga** [bəˈluːgə] *n. zool.* (*pl.* **beluga** *or* **belugas**) бялу́га
**belvedere** [ˈbelvədɪə] *n. archit.* бельведэ́р
**bemoan** [bɪˈməʊn] *v. fml* апла́кваць, пла́каць (*па кім-н./чым-н.*)

**bench** [bentʃ] *n.* **1.** ла́ва, ла́ўка; **the substitutes' bench** ла́ва запасны́х **2.** ме́сца су́ддзяў (*у зале суда*) **3.** стано́к; варшта́т

**bend**[1] [bend] *n.* **1.** згіб, вы́гіб, дуга́ **2.** паваро́т; **a sharp bend in a road** рэ́зкі паваро́т даро́гі **3.** нахі́л (*галавы, цела і да т.п.*) ♦ **round the bend** *BrE, infml* звар'яце́лы

**bend**[2] [bend] *v.* **(bent) 1.** гнуць; гну́цца; выгіба́ць; выгіба́цца **2.** нахіля́ць; схіля́цца, нахіля́цца **3.** паваро́чваць; *The road bends to the right.* Дарога паварочвае направа. ♦ **bend one's mind** *fml* прысвяці́ць сябе́ (*чаму-н.*); **bend the truth** быць не зусі́м шчы́рым; **on bended knees** на сагну́тых нага́х; ліслі́ва

**bendy** [ˈbendi] *adj. BrE, infml* **1.** гну́ткі **2.** з паваро́тамі (*пра дарогу*)

**beneath**[1] [bɪˈniːθ] *adv.* уні́зе; ніжэ́й

**beneath**[2] [bɪˈniːθ] *prep. fml* пад, ніжэ́й; **sit beneath a tree** сядзе́ць пад дрэ́вам; *He considers such jobs beneath him.* Ён лічыць такую працу не вартай сябе.

**benediction** [ˌbenɪˈdɪkʃn] *n.* **1.** *relig.* благаславе́нне, малі́тва (*перад ядой і пасля яды*) **2. Benediction** пасвячэ́нне ў сан аба́та (*у каталікаў*)

**benefaction** [ˌbenɪˈfækʃn] *n. fml* дабрадзе́йства, мі́ласць, дабрачы́ннасць

**benefactor** [ˈbenɪfæktə] *n. fml* дабрадзе́й, дабрачы́нец, добразычлі́вец

**benefactress** [ˈbenɪfæktrəs] *n.* дабрадзе́йка, добразычлі́ўка

**benefice** [ˈbenɪfɪs] *n.* дахо́д святара́, які́ ма́е сан і прыхо́д

**beneficence** [bɪˈnefɪsns] *n. fml* дабрачы́ннасць, дабрадзе́йнасць, мілась́рнасць

**beneficent** [bɪˈnefɪsnt] *adj. fml* дабрачы́нны, дабрадзе́йны, мілась́рны

**beneficial** [ˌbenɪˈfɪʃl] *adj.* дабратво́рны, кары́сны, жыватво́рны; вы́гадны; *A good diet is beneficial to your health.* Добрая дыета прынясе вам карысць.

**beneficiary** [ˌbenɪˈfɪʃəri] *n.* **1.** асоба, яка́я атрыма́ла вы́гаду ад чаго́-н. **2.** *law* спадкае́мец, спадкае́мнік; спадкае́мніца; даве́рнік ула́снасці

**benefit**[1] [ˈbenɪfɪt] *n.* вы́гада, кары́сць

**benefit**[2] [ˈbenɪfɪt] *v.* **1.** прыно́сіць кары́сць, прыбы́так; *His studies in the USA will benefit his knowledge of English.* Яго вучоба ў ЗША ўдасканаліць яго веды па англійскай мове. **2.** атры́мліваць кары́сць, дапамо́гу

**benevolence** [bəˈnevələns] *n.* **1.** *fml* дабрыня́, добразычлі́васць **2.** дабрачы́ннасць

**benevolent** [bəˈnevələnt] *adj.* **1.** *fml* добразычлі́вы **2.** дабрачы́нны

**benign** [bɪˈnaɪn] *adj. fml* **1.** мі́ласцівы, мілась́рны **2.** *med.* дабрая́касны (*пра пухліну*)

**bent**[1] [bent] *n.* схі́льнасць; *She has a bent for mathematics.* У яе схільнасць да матэматыкі.

**bent**[2] [bent] *adj.* **1.** сагну́ты; нахі́лены, пахі́лены; крывы́; пакру́чаны **2.** сагну́ты, скры́ўлены, зго́рблены (*пра чалавека*)

**bent**[3] [bent] *past, p.p.* → **bend**

**benzene** [ˈbenziːn] *n. chem.* бензо́л

**benzine, benzin** [ˈbenziːn] *n.* бензі́н

**benzol** [ˈbenzɒl] *n.* бензо́л

**bequeath** [bɪˈkwiːð] *v. fml* завяшча́ць (*маёмасць*)

**bequest** [bɪˈkwest] *n. fml* завяшча́нне

**berate** [bɪˈreɪt] *v. fml* мо́цна га́ніць, свары́цца; дава́ць нагоня́й

**bereave** [bɪˈriːv] *v. fml* пазбаўля́ць; **be bereaved of relatives** стра́ціць блі́зкіх

**bereaved**[1] [bɪˈriːvd] *n. fml* **: the bereaved** асіраце́лы, сірата́; асіраце́лыя, сіро́ты

**bereaved**[2] [bɪˈriːvd] *adj. fml* асіраце́лы; які́ стра́ціў блі́зкіх

**bereavement** [bɪˈriːvmənt] *n.* ця́жкая стра́та (*асабліва блізкіх*)

**bereft** [bɪˈreft] *adj. fml* пазба́ўлены; які́ стра́ціў; **bereft of all hope** пазба́ўлены ўся́кай надзе́і

**beret** [ˈbereɪ] *n.* берэ́т

**beriberi** [ˌberɪˈberi] *n.* бе́ры-бе́ры (*трапічная хвароба*)

**Berliner** [bɜːˈlɪnə] *n.* берлі́нец

**Bermuda shorts** [bəˌmjuːdəˈʃɔːts] *n. pl.* штаны́ да кале́на, берму́ды

**Bermuda Triangle** [bəˌmjuːdəˈtraɪæŋl] *n.* **the Bermuda Triangle** Берму́дскі трохку́тнік

**Bernardine** [ˈbɜːnədiːn] *n.* бернардзі́нец (*манах*)

**berry** [ˈberi] *n.* **1.** я́гада **2.** ікры́нка, зярня́тка ікры́ **3.** *AmE, infml* до́лар

**berserk** [bəˈzɜːk] *adj.* раз'ю́шаны, ашале́лы; **go berserk** раз'ю́шыцца, ашале́ць

**berth**[1] [bɜːθ] *n.* **1.** ло́жак (*на параходзе*); спа́льнае ме́сца (*у вагоне*); **an upper/lower berth** ве́рхняе/ні́жняе ме́сца **2.** прыча́л, ме́сца стая́нкі (*судна*)

**berth**[2] [bɜːθ] *v.* ста́віць на я́кар (*судна*)

**beryl** [ˈberəl] *n. min.* беры́л

**beryllium** [bəˈrɪliəm] *n. chem.* бerýлій

**beseech** [bɪˈsiːtʃ] *v. fml* **(beseeched** *or* **besought)** прасі́ць, упро́шваць, малі́ць; *Let him go, I beseech you!* Хай ідзе, прашу цябе!

**beseeching** [bɪˈsiːtʃɪŋ] *adj. fml* умо́льны, упраша́льны

**beset** [bɪˈset] *v. fml* **(beset)** атакава́ць; апано́ўваць; **beset with questions** закі́дваць пыта́нямі

**beside** [bɪˈsaɪd] *prep.* **1.** по́бач з, каля́, ля; **a mill beside a stream** млын каля́ ракі́ **2.** у параўна́нні; *This painting is nothing beside yours.* Гэты малюнак не ідзе ні ў якое параўнанне з вашым.

**besides**[1] [bɪˈsaɪdz] *adv.* **1.** акрамя́ таго́, апрача́, апро́ч таго́; *I don't really want to go. Besides, it's too late now.* Шчыра кажучы, я не хачу ісці. Акрамя таго, зараз вельмі позна. **2.** у дада́так; **discounts on televisions, stereos and much more besides** скі́дкі на тэлеві́зары, стэ́рэа і шмат што ў дада́так

**besides**[2] [bɪˈsaɪdz] *prep.* акрамя́, апро́ч, апрача́; *He has got no family besides parents.* У яго няма нікога, акрамя бацькоў.

**besiege** [bɪˈsiːdʒ] *v.* **1.** *mil.* асаджа́ць, аблажы́ць (*горад, крэпасць*) **2.** акружа́ць; то́ўпіцца **3.** закі́дваць (*лістамі, запрашэннямі і да т.п.*)

**besmirch** [bɪˈsmɜːtʃ] *v. fml* ачарня́ць; знеслаўля́ць

**besom** [ˈbiːzəm] *n.* ве́нік, мятла́

**besotted** [bɪˈsɒtɪd] *adj.* **(with)** заслéплены; ап'яне́лы (*ад кахання*)

**besought** [bɪˈsɔːt] *past, p.p.* → **beseech**

**bespatter** [bɪˈspætə] *v. lit.* запы́рскваць (*вадой*)

**bespeak** [bɪˈspiːk] *v.* **(bespoke, bespoken)** *lit.* пака́зваць, каза́ць; гавары́ць пра (*перан.*)

**bespoke** [bɪˈspəʊk] *past* → **bespeak**

**bespoken** [bɪˈspəʊkən] *p.p.* → **bespeak**

**best**[1] [best] *n.* **1.** найле́пшае; ле́пшыя лю́дзі; *We're the best of friends.* Мы самыя блізкія сябры; *The town looks its best in summer.* Горад мае найлепшы выгляд улетку; **do one's best** рабі́ць усё магчы́мае **2.** суке́нка на вы́хад; **Sunday best** свято́чная суке́нка ♦ **at best** у ле́пшым ра́зе; **be (all) for the best** да ле́пшага; **make the best of smth.** вы́карыстаць што-н. найле́пшым чы́нам/максіма́льна; прымíры́цца з непазбе́жным; **with the best** не горш за íншых; наро́ўні з ле́пшымі

**best**[2] [best] *adj.* (*найвыш. ст. ад* **good**) найле́пшы; *We want the children to have the best possible education.* Мы хочам, каб нашы дзеці атрымалі як мага лепшую адукацыю.

**best**[3] [best] *adv.* **1.** (*найвыш. ст. ад* **well**) лепш за ўсё, найле́пш, найбо́льш, больш за ўсё; **best of all** найле́пш, больш за ўсё; *Do as you think best.* Рабі так, як лічыш (лепшым). ♦ *We'll try **as best we can**.* Мы будзем імкнуцца зрабіць як мага лепш.

**bestial** [ˈbestiəl] *adj. fml* звéрскі, лю́ты; звяры́ны; **bestial acts** звéрскія ўчы́нкі; **bestial cruelty** звяры́ная жо́рсткасць

**bestiality** [ˌbestiˈæləti] *n.* **1.** скатало́жніцтва **2.** *fml* звéрскасць, лю́тасць, звéрства

**bestir** [bɪˈstɜː] *v. fml* разварушы́цца; узварухну́цца; *Bestir yourself!* Варушыся!

**best man** [ˌbestˈmæn] *n.* (*pl.*-**men**) ша́фер

**bestow** [bɪˈstəʊ] *v. fml* **(on/upon)** прысуджа́ць (*званне*); прысво́йваць; **bestow a title** прысво́йваць ты́тул

**best-seller** [ˌbestˈselə] бестсе́лер

**bet**[1] [bet] *n.* закла́д; **make a bet** ісці́/пайсці́ ў закла́д

**bet**[2] [bet] *v.* **(bet) 1. (on/against)** ісці́ ў закла́д **2.** *infml* быць перакана́ным (*у чым-н.*); *I bet we're too late.* Пэўна, мы спазняемся. ♦ **You bet!** *AmE* А як жа!; Яшчэ б!; Вядома!; **bet one's life (on smth.)** ≅ руку́ на адцён дава́ць; быць абсалю́тна перакана́ным (у чым-н.)

**beta** [ˈbiːtə] *n.* бэ́та (*2-я літара грэчаскага алфавіта*)

**betake** [bɪˈteɪk] *v.* **(betook, betaken)** *lit.* **: betake oneself** вы́правіцца, накірава́цца (*куды-н.*); *He betook himself to his room.* Ён накіраваўся ў свой пакой.

**betaken** [bɪˈteɪkən] *p.p.* → **betake**

**betoken** [bɪˈtəʊkən] *v. lit.* азнача́ць, пака́зваць, быць прыкмéтай; *A clear blue sky is betokening a fine day.* Яснае блакітнае неба прадказвае добрае надвор'е.

**betook** [bɪˈtʊk] *past* → **betake**

**betray** [bɪˈtreɪ] *v.* **1.** здра́джваць; станаві́цца здра́днікам **2.** падво́дзіць (*каго-н.*), не апра́ўдваць (*даверу, надзеі*); *He betrayed my trust over and over again.* Ён падводзіў мяне зноў і зноў. **3. : betray oneself** вы́даць сябе́; прагавары́цца (нечака́на)

**betrayal** [bɪˈtreɪəl] *n.* здра́дніцтва, здра́да; **an act of betrayal** здра́дніцкі ўчы́нак

**betrayer** [bɪˈtreɪə] *n.* здра́днік; здра́дніца

**betrothal** [bɪˈtrəʊðl] *n. fml* зару́чыны

**better**[1] [ˈbetə] *n.* ле́пшы, ле́пшае; **change for the better** змяні́цца да ле́пшага; **think (all) the better of smb.** мець найле́пшае меркава́нне пра каго́-н. ♦ **for better or (for) worse** у ра́дасці і ў го́ры; **so much the better** тым лепш

**better**[2] [ˈbetə] *adj.* (*выш. ст. ад* **good**) ле́пшы; **better than nothing** лепш чым (зусі́м) нічо́га; **little/no better than** ненамно́га ле́пшы; ніко́лькі не ле́пшы

**better**[3] [ˈbetə] *v.* паляпша́ць; паляпша́цца

**better**[4] [ˈbetə] *adv.* (*выш. ст. ад* **well**) лепш, ле́пей; **had better** лепш бы, ва́рта б ♦ **be better**

**off** быць больш замóжным; **be better off (doing smth.) :** *She'd be better off without him.* Ёй было б лепш без яго.

**better half** [ˌbetəˈhɑːf] *n. infml* лéпшая палóва (*жонка, муж*)

**betterment** [ˈbetəmənt] *n. fml* паляпшэ́нне; удасканáленне

**betting** [ˈbetɪŋ] *n.* заклáд; *What's the betting? infml* У чым справа?; *The betting is that…* Справа ў тым, што...

**between¹** [bɪˈtwiːn] *adv.* **: in between** памíж; пасярóд; у сярэ́дзіне; *The house was near a park but there was a street in between.* Дом стаяў каля парку, але паміж была вуліца.

**between²** [bɪˈtwiːn] *prep.* памíж, між; *It weighs between 50 and 60 kilos.* Гэта важыць недзе так 50–60 кг; *Let it be between you and me.* Хай гэта застанецца паміж намі.

**bevel** [ˈbevl] *n.* скос; пакáты бок (*чаго-н.*)

**beverage** [ˈbevərɪdʒ] *n. fml* напóй, напíтак, пітвó

**bevy** [ˈbevi] *n. infml* кампáнія, грýпа (*звычайна жаночая*), гурт

**bewail** [bɪˈweɪl] *v. fml* аплáкваць, галасíць

**beware** [bɪˈweə] *v.* **(of)** берагчы́ся, сцерагчы́ся

**bewilder** [bɪˈwɪldə] *v.* бянтэ́жыць, азадáчваць, стáвіць у тупíк; збівáць з панталы́ку

**bewildering** [bɪˈwɪldərɪŋ] *adj.* які́ азадáчвае/бянтэ́жыць/здзіўляе; *There is a bewildering variety of flora in this area.* Флора гэтага краю проста здзіўляе сваёй разнастайнасцю.

**bewilderment** [bɪˈwɪldəmənt] *n.* збянтэ́жанасць; замяшáнне; **stare in bewilderment** глядзéць збянтэ́жана

**bewitch** [bɪˈwɪtʃ] *v. lit.* заварóжваць, зачарóўваць (*таксама перан.*); *He was simply bewitched by her beauty.* Яе краса проста зачаравала яго.

**beyond¹** [bɪˈjɒnd] *adv.* удалечынí; на адлéгласці; *Snowdon and the mountains beyond were covered in snow.* Сноўдан і горы ўдалечыні былі пакрытыя снегам.

**beyond²** [bɪˈjɒnd] *prep.* **1.** па той бок, за; **beyond the horizon** за даляглядам; **beyond the sea** па той бок мóра **2.** пазнéй; **beyond midnight** за пóўнач **3.** вышэ́й; па-за; **beyond belief** неверагóдна; **beyond repair** не падлягáе рамóнту; **beyond cure** невылéчны; **live beyond one's income** жыць не па срóдках; *It's beyond me why she wants to marry Jim.* Я не магу зразумець, чаму яна хоча выйсці замуж за Джыма.

**bias** [ˈbaɪəs] *n.* **1.** прадузя́тыя аднóсіны; дыскрымінáцыя **2.** тэндэ́нцыя; ухіл

**biased** [ˈbaɪəst] *adj.* **1.** тэндэнцы́йны; прадузя́ты; прыхíльны; **a biased opinion** неаб'екты́ўны пóгляд **2. :** *The school is biased towards music.* (Гэта) школа з музычным ухілам.

**biathlon** [baɪˈæθlən] *n. sport* біятлóн

**bible** [ˈbaɪbl] *n.* **the Bible** Бíблія

**biblical** [ˈbɪblɪkl] *adj.* біблéйскі; **biblical scenes** біблéйскія сцэ́ны

**bibliographer** [ˌbɪbliˈɒgrəfə] *n.* бібліёграф

**bibliographical** [ˌbɪbliəˈgræfɪkl] *n.* бібліяграфíчны

**bibliography** [ˌbɪbliˈɒgrəfi] *n.* бібліягрáфія, бібліяграфíчны давéднік

**bibliophile** [ˈbɪblɪəfaɪl] *n. fml* бібліяфíл; кнігалю́б

**bicameral** [ˌbaɪˈkæmərəl] *adj.* двухпалáтны (*парламент*)

**bicarbonate of soda** [baɪˌkɑːbənətəvˈsəʊdə ] *n.* пітнáя сóда

**bicentenary** [ˌbaɪsənˈtiːnəri] *n.* двухсотгóддзе, двухсóтыя ўгóдкі

**biceps** [ˈbaɪseps] *n.* (*pl.* **biceps**) бíцэпс; **bulging biceps** накáчаныя біцэпсы

**bicycle** [ˈbaɪsɪkl] *n.* веласіпéд; **go for a bicycle ride** праéхацца на веласіпéдзе

**bicyclist** [ˈbaɪsɪklɪst] *n. dated or fml* веласіпеды́ст; веласіпеды́стка

**bid¹** [bɪd] *n.* **(for) 1.** прапанóва цаны́ (*на аўкцыёне*); **a takeover bid** прапанóва зліцця́ фірм **2.** прапанóва (*зрабіць што-н.*); **a bid for disarmament** прапанóва раззбраéння

**bid²** [bɪd] *v.* **(bid) 1.** прапанóўваць цанý (*на аўкцыёне*); ***What am I bid for** this picture?* Колькі дасце за гэтую карціну? (*на аўкцыёне*) **2.** дабівáцца, імкнýцца; дамагáцца; *The team is bidding to retain its place in the league.* Каманда імкнецца захаваць месца ў лізе.

**bid³** [bɪd] *v.* **(bade, bidden) : bid smb. farewell** *fml* развітáцца з кім-н.; *I bade all my friends farewell.* Я развітаўся з усімі маімі сябрамі. **2.** *dated or lit.* загáдваць; прасíць; *He bade me come again.* Ён папрасіў мяне наведаць яго зноў.

**bidden** [ˈbɪdn] *p.p.* → **bid**

**bidder** [ˈbɪdə] *n.* пакупнíк, прэтэндэ́нт (*на рынку*)

**bidding** [ˈbɪdɪŋ] *n.* прапанóва цаны́ (*на аўкцыёне*)

**biennial** [baɪˈeniəl] *n.* **1.** які́/якáя адбывáецца раз у два гады́ **2.** двухгадóвая раслíна

**big** [bɪg] *adj.* **1.** вялíкі; **a big man** высóкі мужчы́на; **a big decision** вáжнае рашэ́нне; **big repair** капітáльны рамóнт; **a big noise** мóцны

шум; **a big close-up** буйны́ план (*у кіно*); *I'm a big eater.* Люблю паесці. **2.** даро́слы, вялі́кі; *You're a big boy!* Ты ўжо вялікі хлопец! ♦ **a big cheese** *infml* ва́жная асо́ба; **a big fish (in a small pond)** туз мясцо́вага значэ́ння; **be/get/grow too big for one's boots** задзіра́ць нос; ва́жнічаць; **have/be a big mouth** прагаварыі́ца; шмат балбата́ць (*асабліва пра сябе*)

**bigamy** [ˈbɪɡəmi] *n.* біга́мія; дваяшлю́бнасць, дваяжэ́нства, дваяму́жжа

**Big Apple** [ˌbɪɡˈæpl] *n. infml* **the Big Apple** Нью-Ёрк

**Big Brother** [ˌbɪɡˈbrʌðə] *n.* «старэ́йшы брат»

**big business** [ˌbɪɡˈbɪznəs ] *n.* вялі́кі бізнес; прыбытко́вая спра́ва

**big game** [ˌbɪɡˈɡeɪm] *n.* буйны́я жывёлы для палява́ння

**big-headed** [ˌbɪɡˈhedɪd] *adj. infml* самазадаво́лены, фанабэ́рысты

**big-hearted** [ˌbɪɡˈhɑːtɪd] *adj.* до́бры, шчо́дры, велікаду́шны

**bigot** [ˈbɪɡət] *n.* фана́тык, сляпы́ прыхі́льнік

**bigotry** [ˈbɪɡətri] *n.* фанаты́зм

**big time** [ˈbɪɡtaɪm] *n. infml* **the big time** шу́мны по́спех; **a big time singer** выда́тны спява́к

**big-timer** [ˈbɪɡtaɪmə] *n. infml* знакамі́тасць; акцёр/спартсме́н вышэ́йшага кла́са

**bijou** [ˈbiːʒuː] *adj.* мале́нькі, элега́нтны; **a bijou hut** мале́нькая зgра́бная ха́тка

**bijouterie** [biːˈʒuːtəri] *n.* біжутэ́рыя

**bike[1]** [baɪk] *n. infml* **1.** веласіпе́д; ро́вар; ве́лік **2.** матацы́кл; мапе́д; мотаро́лер; **travel by bike** падаро́жнічаць на веласіпе́дзе, матацы́кле

**bike[2]** [baɪk] *v. infml* е́хаць на веласіпе́дзе, матацы́кле

**biker** [ˈbaɪkə] *n.* **1.** ба́йкер **2.** веласіпеды́ст; матацыклі́ст

**bikini** [bɪˈkiːni] *n.* бікі́ні

**bilabial** [ˌbaɪˈleɪbiəl] *adj. ling.* гу́бна-губны́, білабія́льны (*гук*)

**bilateral** [ˌbaɪˈlætərəl] *adj.* білатэра́льны, двухбако́вы; **a bilateral treaty** двухбако́вае пагадне́нне

**bilberry** [ˈbɪlbəri] *n. bot.* чарні́цы

**bile** [baɪl] *n.* **1.** жоўць **2.** *fml* раздражнёнасць, зласлі́васць

**bilingual** [ˌbaɪˈlɪŋɡwəl] *adj.* двухмо́ўны; *She is bilingual in English and Swahili.* Яна аднолькава валодае англійскай мовай і суахілі; **bilingual education** адука́цыя на дзвюх мо́вах

**bilingualism** [ˌbaɪˈlɪŋɡwəlɪzəm] *n.* білінгві́зм

**bill[1]** [bɪl] *n.* **1.** законапрае́кт, біль **2.** раху́нак; **a telephone bill** раху́нак за тэлефо́н **3.** *AmE* банкно́т; **a ten-dollar bill** банкно́т ва́ртасцю ў дзе́сяць до́лараў **4.** афі́ша **5.** прагра́ма (*тэатральная*); **head/top the bill** быць каро́нным ну́марам прагра́мы ♦ **fill/fit the bill** адпавяда́ць патрабава́нням

**bill[2]** [bɪl] *v.* **1. (for)** выстаўля́ць або́ выпі́сваць раху́нак **2.** абвяшча́ць у афі́шах; абкле́йваць афі́шамі

**bill[3]** [bɪl] *n.* дзю́ба (*птушкі*)

**billboard** [ˈbɪlbɔːd] *n. AmE* до́шка для афі́ш і аб'я́ў

**billiards** [ˈbɪliədz] *n. pl.* більця́рд

**billion** [ˈbɪljən] *n.* **1.** мілья́рд, більён **2.** *BrE, dated* більён

**billionaire** [ˌbɪljəˈneə] *n. AmE* мільярдэ́р

**bill of rights** [ˌbɪləvˈraɪts] *n.* біль аб права́х

**billow[1]** [ˈbɪləʊ] *n. poet.* **1.** вялі́кая хва́ля **2.** вал; лаві́на **3.** мо́ра

**billow[2]** [ˈbɪləʊ] *v.* уздыма́цца, хваля́вацца (*на ветры*)

**bimbo** [ˈbɪmbəʊ] *n.* (*pl.* **-os**) *infml, derog.* дзе́ўка, чуві́ха

**bin[1]** [bɪn] *n.* **1.** *BrE* вядро́ для сме́цця **2.** кантэ́йнер; **a bread bin** хле́бніца

**bin[2]** [bɪn] *v. infml* выкі́дваць, выкіда́ць (*у сметніцу*)

**binary** [ˈbaɪnəri] *adj.* **1.** *comput., math.* біна́рны; **the binary system** біна́рная сістэ́ма; дваі́чная сістэ́ма (лічэ́ння) **2.** *chem.* двайны́; **a binary molecule** двуха́тамная мале́кула

**bind[1]** [baɪnd] *n.* **:** ♦ **in a bind** *AmE* у пераплёце, у ця́жкім стано́вішчы

**bind[2]** [baɪnd] *v.* **(bound) 1.** звя́зваць (*таксама перан.*) **2.** пераплята́ць (*кнігу*)

**bind up** [ˌbaɪndˈʌp] *phr.v.* **1.** перавя́зваць; пераплята́ць; звя́зваць **2.** быць заня́тым; **be bound up in smth.** быць заня́тым чым-н.; **be bound up in smb.** жыць інтарэ́самі каго-н.

**binder** [ˈbaɪndə] *n.* **1.** скорасшыва́льнік, па́пка (*для газет, часопісаў і да т.п.*) **2.** пераплётчык; пераплётчыца **3.** рэ́чыва, яко́е звя́звае/скле́йвае **4.** снопавяза́лка

**binding** [ˈbaɪndɪŋ] *n.* **1.** пераплёт **2.** абшы́ўка **3.** *med.* банда́ж **4.** *sport* мацава́нне для лы́жаў

**binge** [bɪndʒ] *n. infml* вы́піўка, папо́йка, гуля́нка; **go/be on a binge** разгуля́цца; быць на падпі́тку

**bingo[1]** [ˈbɪŋɡəʊ] *n. sport* бі́нга (*гульня, падобная на лато*)

**bingo[2]** [ˈbɪŋɡəʊ] *interj.* бах! (*выражае нечаканасць або моцны ўдар*)

**binoculars** [bɪˈnɒkjələz] *n. pl.* біно́кль

**binomial** [baɪˈnəʊmiəl] *n. math., ling.* біно́м, двухчле́н
**biochemistry** [ˌbaɪəʊˈkemɪstri] *n.* біяхі́мія
**biocomputer** [ˌbaɪəʊkəmˈpjuːtə] *n.* **1.** біякамп'ю́тар **2.** мозг чалаве́ка (*які разглядаецца як камп'ютар*)
**biodiversity** [ˌbaɪəʊdaɪˈvɜːsəti] *n.* біялагі́чная разнаста́йнасць
**bioenergetics** [ˈbaɪəʊˌenəˈdʒetɪks] *n.* біяэнерге́тыка
**bioenergy** [ˌbaɪəʊˈenədʒi] *n.* эне́ргія біялагі́чных працэ́саў
**biographer** [baɪˈɒgrəfə] *n.* біёграф
**biography** [baɪˈɒgrəfi] *n.* біягра́фія
**biological** [ˌbaɪəˈlɒdʒɪkl] *adj.* біялагі́чны; **a child's biological parents** бацькі́ дзіця́ці, які́я яго́ нарадзі́лі; **biological ripeness** біялагі́чная ста́ласць
**biological warfare** [baɪəˌlɒdʒɪklˈwɔːfeə] *n.* біялагі́чная вайна́
**biologist** [baɪˈɒlədʒɪst] *n.* біёлаг
**biology** [baɪˈɒlədʒi] *n.* біяло́гія
**biometric** [ˌbaɪəʊˈmetrɪk] *adj.* біяметры́чны
**biopsy** [ˈbaɪɒpsi] *n. med.* біяпсі́я
**biorhythm** [ˈbaɪəʊrɪðəm] *n. physiol.* біяры́тм
**biosphere** [ˈbaɪəsfɪə] *n.* біясфе́ра
**biotechnology** [ˌbaɪəʊtekˈnɒlədʒi] *n.* біятэхналёгія
**bipolar** [ˌbaɪˈpəʊlə] *adj.* біпаля́рны, двухпо́люсны
**birch** [bɜːtʃ] *n.* **1.** бяро́за; **the birch grove** бярэ́знік, беразня́к **2. the birch** лупцо́ўка
**birchwood** [ˈbɜːtʃwʊd] *n.* драўні́на бяро́зы
**bird** [bɜːd] *n.* пту́шка, птах ♦ **an old bird** стрэ́ляная пту́шка; **be (strictly) for the birds** *infml* ≅ кура́м на смех; не мець ва́ртасці; **the bird has flown** пту́шка зні́кла (*пра асобу, якая ў вышуку*); **a bird in the hand is worth two in the bush** ≅ лепш верабе́й у руцэ́, чым го́луб на страсе́; **birds of a feather (flock together)** ≅ саро́ка саро́ку ба́чыць здалёку; аднаго́ по́ля я́гады; **kill two birds with one stone** ≅ адны́м стрэ́лам забі́ць двух зайцо́ў; **the early bird catches the worm** ≅ хто ра́на ўстае́, таму́ Бог дае́
**birdcage** [ˈbɜːdkeɪdʒ] *n.* кле́тка для пту́шак
**birdcherry** [ˈbɜːdtʃeri] *n. bot.* чарэ́шня
**bird flu** [ˈbɜːdfluː] *n.* птушы́ны грып
**birdie** [ˈbɜːdi] *n.* **1.** пту́шачка, пта́шка **2.** вала́н (*у бадмінтоне*)
**bird of paradise** [ˌbɜːdəvˈpærədaɪs] *n. zool.* ра́йская пту́шка
**bird of passage** [ˌbɜːdəvˈpæsɪdʒ] *n.* пералётная пту́шка (*таксама перан.*)
**bird of prey** [ˌbɜːdəvˈpreɪ] *n.* драпе́жная пту́шка
**bird's-eye view** [ˌbɜːdzaɪˈvjuː] *n.* від з вышыні́ птушы́нага палёту; агу́льны від (*чаго-н.*) (*таксама перан.*)
**birdsong** [ˈbɜːdsɒŋ] *n.* птушы́ныя спе́вы
**bird table** [ˈbɜːdteɪbl] *n. BrE* карму́шка (*для птушак*)
**birdwatcher** [ˈbɜːdwɒtʃə] *n.* арніто́лаг-ама́тар
**birdwatching** [ˈbɜːdwɒtʃɪŋ] *n.* вывучэ́нне пту́шак у натура́льных умо́вах; **do the birdwatching in the park** назіра́ць за пту́шкамі ў па́рку
**biro** [ˈbaɪrəʊ] *n.* ша́рыкавая ру́чка
**birth** [bɜːθ] *n.* нараджэ́нне; **give birth to** нарадзі́ць; **at birth** пры нараджэ́нні; **from birth** ад дня нараджэ́ння; **the date of birth** да́та нараджэ́ння; **by birth :** *She is Belarusian by birth.* Яна беларуска па паходжанні.
**birth certificate** [ˈbɜːθsəˌtɪfɪkət] *n.* пасве́дчанне аб нараджэ́нні
**birth control** [ˈbɜːθkənˌtrəʊl] *n.* кантро́ль нараджа́льнасці; супрацьзача́ткавыя/процізача́ткавыя ме́ры
**birthday** [ˈbɜːθdeɪ] *n.* дзень нараджэ́ння ♦ **in your birthday suit** *joc.* у чым нарадзі́ўся
**birthmark** [ˈbɜːθmɑːk] *n.* радзі́мы знак, радзі́мка
**birth mother** [ˈbɜːθmʌðə] *n.* біялагі́чная ма́ці
**birthplace** [ˈbɜːθpleɪs] *n.* ме́сца нараджэ́ння, радзі́ма
**birth rate** [ˈbɜːθreɪt] *n.* нараджа́льнасць, каэфіцые́нт нараджа́льнасці
**birthright** [ˈbɜːθraɪt] *n. law* пра́ва паво́дле нараджэ́ння; неад'е́мнае пра́ва
**biscuit** [ˈbɪskɪt] *n.* **1.** сухо́е пячэ́нне, крэ́кер **2.** све́тла-карычне́вы ко́лер ♦ **take the biscuit** *BrE, infml* перасягну́ць усё (*неадабральна*)
**bisect** [baɪˈsekt] *n. tech.* разраза́ць, дзялі́ць напала́м/папала́м
**bisexual** [baɪˈsekʃuəl] *adj.* **1.** бісексуа́льны **2.** двухпо́лы
**bishop** [ˈbɪʃəp] *n.* **1.** епі́скап, бі́скуп **2.** слон (*у шахматах*)
**bishopric** [ˈbɪʃəprɪk] *n.* **1.** сан, стано́вішча бі́скупа **2.** епа́рхія
**Bismark herring** [ˌbɪzmɑːkˈherɪŋ] *n.* марынава́ны селядзе́ц (*філе*)
**bismuth** [ˈbɪzməθ] *n. chem.* ві́смут
**bison** [ˈbaɪsn] *n.* (*pl.* **bison**) *zool.* бізо́н, зубр амерыка́нскі
**bistro** [ˈbiːstrəʊ] *n.* (*pl.* **-os**) бістро́; мале́нькае кафэ́; заку́сачная; рэстара́нчык
**bit**[1] [bɪt] *n.* **1. a bit** крыху́, чуць-чуць, невялі́кая ко́лькасць; *Your advice will help a bit.* Твая парада крыху дапаможа; *Wait a bit.* Пачакайце хвілінку/крыху. **2.** кава́лачак; **every bit** усё, ца́лкам; зусі́м **3.** *AmE, infml* $12^{1}/_{2}$ цэ́нта ♦ **bit**

**by bit** паступ́ова, пакрыс́е; **do one's bit** зрабіць унёсак, унёсці свой укла́д; **not a bit** ані́, нікóлькі; **go/fall to bits** разбіцца на дрóбныя ча́сткі

**bit²** [bɪt] *n.* **1.** цу́глі **2.** свярдзёлак ♦ **take the bit between one's teeth** *infml* ісці́ напралóм, дзéйнічаць без агля́дкі

**bit³** [bɪt] *n. comput.* біт

**bit⁴** [bɪt] *past* → **bite²**

**bitch¹** [bɪtʃ] *n.* **1.** су́ка, су́чка; **a bitch wolf** ваўчы́ца **2.** *slang* су́ка, ку́рва

**bitch²** [bɪtʃ] *v. infml* **(about)** ска́рдзіцца; скугóліць, хны́каць; бурча́ць

**bitchy** [ˈbɪtʃi] *adj. infml* пага́ны, паску́дны; сцярвóзны

**bite¹** [baɪt] *n.* **1.** уку́с; след/ра́на ад укусу **2.** кава́лак (*ежы*); лёгкая заку́ска; **have a bite** перакусі́ць; закусі́ць **3.** вóстры боль; **the bite of the wound** боль ад ра́ны **4.** клёў (*рыбы*)

**bite²** [baɪt] *v.* **(bit, bitten) 1. (into/through)** куса́ць; куса́цца **2.** клява́ць, браць прына́ду **3.** пячы́ (*пра перац, гарчыцу і да т.п.*); шчыпа́ць (*пра мароз*) ♦ **bite the bullet** *infml* бра́цца за што-н. неахвóтна; **bite the dust** *infml* 1) быць пераmóжаным; быць прыні́жаным 2) быць забітым; **bite the hand that feeds one** ≅ сячы́ сук, на які́м сядзі́ш; **bite one's lips** куса́ць гу́бы, нервава́цца; **bite one's tongue** прыкусі́ць язы́к

**bite back** [ˌbaɪtˈbæk] *phr.v.* **1. (at)** агрыза́цца **2.** стры́мліваць сябé

**bite off** [ˌbaɪtˈɒf] *phr.v.* адкусі́ць ♦ **bite smb.'s head off** *infml* сарва́ць злосць на кім-н.; **bite off more than one can chew** пераацані́ць сваé сíлы; узя́цца за спра́ву, што не пад сíлу

**biting** [ˈbaɪtɪŋ] *adj.* **1.** вóстры; прані́злівы; праніклівы; **a biting wind** рэ́зкі вéцер **2.** з'е́длівы, саркасты́чны; **biting words** з'е́длівыя слóвы; шпі́лькі

**bitten** [ˈbɪtn] *p.p.* → **bite²**

**bitter** [ˈbɪtə] *adj* **1.** гóркі; **a bitter taste** гóркі смак **2.** гóркі, паку́тлівы; **the bitter truth** гóркая пра́ўда; **bitter tears** гóркія слёзы; **a bitter lesson** жóрсткі ўрóк; **a bitter disappointment** мóцнае расчарава́нне **3.** мóцны, рэ́зкі; які́ праймáе наскрóзь; **bitter cold** страшэ́нны хóлад; **a bitter wind** рэ́зкі/мóцны вéцер ♦ **a bitter pill (to swallow)** (праглыну́ць) гóркую пілю́лю; **bitter as wormwood** гóркі як палы́н

**bitterly** [ˈbɪtəli] *adv.* **1.** гóрка; *She wept bitterly.* Яна горка плакала. **2.** мóцна, вéльмі; *It was bitterly cold.* Было вельмі холадна.

**bitumen** [ˈbɪtʃəmən] *n.* біту́м; асфа́льт

**bituminous** [bɪˈtjuːmɪnəs] *adj.* біту́мны, бітумінóзны; **bituminous concrete** асфальтабетóн

**bivalve** [ˈbaɪvælv] *n. zool.* двухствóркавы малю́ск

**bivouac¹** [ˈbɪvuæk] *n.* біва́к

**bivouac²** [ˈbɪvuæk] *v.* стая́ць/размясці́цца біваком

**bizarre** [bɪˈzɑː] *adj.* дзі́ўны, вы́чварны, эксцэнтры́чны; **a bizarre situation** вéльмі незвыча́йная сітуа́цыя

**blab** [blæb] *v. infml* **(to, about)** балбата́ць; малóць языкóм; выдава́ць сакрэ́ты

**blabber¹** [ˈblæbə] *n.* **1.** балбату́н; балбату́ха **2.** балбатня́, пустаслóўе

**blabber²** [ˈblæbə] *v. infml* **(on/about)** балбата́ць; *What was she blabbering on about this time?* Пра што гэта яна балбатала цяпер?

**black¹** [blæk] *n.* **1.** чóрны кóлер; чарната́, чэрнь **2.** цемнаску́ры; цемнаску́рая **3.** чóрная вóпратка, жалóба ♦ **be in the black** вéсці спра́ву з прыбы́ткам; **black and white** чóрна-бéлы (*пра фільм, фатаграфію*); **(in) black and white :** *He sees everything in black and white.* Ён бачыць усё або чорным або белым.

**black²** [blæk] *adj.* **1.** чóрны; цёмны; **a black night** цёмная ноч; **turn black** чарнéць, счарнéць; *His face was black with anger.* Яго твар сцямнеў ад злосці. **2.** чарнаску́ры, цемнаску́ры; **black race** чóрная ра́са **3.** бру́дны; **black hands** бру́дныя ру́кі **4.** злы, злóсны; **look black at smb**. злава́ць на кагó-н.; кі́нуць злóсны пóзірк на кагó-н. **5.** змрóчны, пану́ры; тужлі́вы; безнадзéйны; **black despair** рóспач, безвыхóдны адча́й; **black humour** «чóрны гу́мар», змрóчны гратэ́ск ♦ **as black as ink** чóрны як са́жа; змрóчны, бязра́дасны; **black and blue** увéсь у сіняка́х; *He is* ***not as black as he is painted.*** Ён не такі благі, як яго малююць.

**black³** [blæk] *v.* **1.** *BrE* байкатава́ць (*справу, пачынанне і да т.п.*) у знак пратэ́сту абó ў падтры́мку забастóўкі **2.** чарні́ць, фарбава́ць у чóрны кóлер **3.** ваксава́ць (*абутак*)

**black out** [ˌblækˈaʊt] *phr.v.* **1.** часóва стра́ціць прытóмнасць **2.** зацямні́ць абó пагасі́ць святлó **3.** выкрэ́сліваць (*пра цэнзуру*)

**blackball** [ˈblækbɔːl] *v.* забараня́ць; падвярга́ць астракі́зму

**blackberry** [ˈblækbəri] *n. bot.* ажы́ны; ажы́на (*ягады або расліна*)

**blackbird** [ˈblækbɜːd] *n. zool.* чóрны дрозд

**blackboard** [ˈblækbɔːd] *n.* кла́сная/шкóльная дóшка

**blackcurrant** [ˌblækˈkʌrənt] *n. bot.* чóрныя парэ́чкі; **a blackcurrant bush** куст чóрных парэ́чак

**blacken** [ˈblækən] *v.* **1.** чарні́ць, рабі́ць чо́рным/цёмным **2.** ачарня́ць (*імя, рэпутацыю і да т.п.*); паклёпнічаць, узво́дзіць паклёп

**black eye** [ˌblækˈaɪ] *n.* **1.** сіня́к пад во́кам, падбі́тае во́ка **2.** *infml* га́ньба, со́рам

**black frost** [ˌblækˈfrɒst] *n.* **1.** шэ́рань **2.** галалёд, галалёдзіца (*на шашы*)

**blackguard** [ˈblægɑːd] *n. BrE, dated* няго́днік, падлю́га

**blackhead** [ˈblækhed] *n.* вуго́р (*на скуры*)

**blacking** [ˈblækɪŋ] *n.* чо́рная ва́кса

**blackjack** [ˈblækdʒæk] *n.* **1.** дубі́нка **2.** гульня́ ў ачко́ (*пра карты*) **3.** піра́цкі чо́рны сцяг

**blackleg** [ˈblækleg] *n.* штрэйкбрэ́хер

**blacklist**[1] [ˈblæklɪst] *n.* чо́рны спіс

**blacklist**[2] [ˈblæklɪst] *v.* зано́сіць у чо́рны спіс

**blackmail**[1] [ˈblækmeɪl] *n.* шанта́ж, вымага́нне (*грошай*)

**blackmail**[2] [ˈblækmeɪl] *v.* шантажы́раваць; вымага́ць гро́шы пагро́замі; **blackmail smb. into doing smth**. прымуша́ць каго́-н. шантажо́м зрабі́ць што-н.

**blackmailer** [ˈblækmeɪlə] *n.* шантажы́ст; шантажы́стка; вымага́льнік; вымага́льніца

**black-marketeer** [ˌblækmɑːkɪˈtɪə] *n.* спекуля́нт; спекуля́нтка

**blackness** [ˈblæknəs] *n.* **1.** чарната́ **2.** цемната́, це́мра; *She peered out into the blackness of the night.* Яна выглянула ў начную цемру.

**blackout** [ˈblækaʊt] *n.* **1.** часо́вая адсу́тнасць электры́чнага святла́ (*асабліва пры аварыі*) **2.** забаро́на на публіка́цыю паведамле́нняў; **a newspaper blackout** нявы́хад газе́т **3.** зацямне́нне, святломаскіро́ўка; парушэ́нне су́вязі **4.** часо́вая стра́та прыто́мнасці, па́мяці або́ зро́ку

**blacksmith** [ˈblæksmɪθ] *n.* кава́ль

**blackthorn** [ˈblækθɔːn] *n. bot.* цярно́ўнік, цёрн

**bladder** [ˈblædə] *n.* **1.** *anat.* мачавы́ пузы́р **2.** пузы́р **3.** ка́мера; **a football bladder** футбо́льная ка́мера

**blade** [bleɪd] *n.* **1.** лязо́ (*нажа*) **2.** ло́пасць (*прапелера, вясла*) **3.** былі́нка, траві́нка; до́ўгі, ву́зкі ліст (*расліны*)

**blame**[1] [bleɪm] *n.* **1.** віна́, адка́знасць; **lay/put the blame for smth. on smb.** вінава́ціць каго́-н. у чым-н., ста́віць што-н. у віну́ каму́-н.; *His conduct is free from blame*. Яго паводзіны беззаганныя. **2.** вымо́ва

**blame**[2] [bleɪm] *v.* **1.** вінава́ціць, ста́віць у віну́; *She cannot be blamed for it.* Яна ў гэтым не вінавата. **2.** га́ніць; нарака́ць*; I have nothing to blame myself.* Мне няма за што на сябе наракаць. ♦ **be to blame** быць вінава́тым; *If anyone's to blame, it's me*. Калі хто і вінаваты, то гэта я.

**blameless** [ˈbleɪmləs] *adj.* няві́нны; бездако́рны, беззага́нны

**bland** [blænd] *adj.* **1.** нясма́чны, прэ́сны (*пра ежу*) **2.** невыра́зны, шэ́ры (*пра прамову*)

**blandishments** [ˈblændɪʃmənts] *n. pl. fml* угаво́рванне; ухвале́нне; лёсткі

**blank**[1] [blæŋk] *n.* **1.** прабе́л, про́пуск; пусто́е ме́сца; *Leave a blank if you can't answer.* Пакінь прабел, калі не можаш адказаць. **2.** бланк; **an application blank** бланк для заявы **3.** права́л у па́мяці; *My mind is a complete blank*. Я нічога не памятаю. **4.** пу́стка (*духоўная*), спусто́шанасць

**blank**[2] [blæŋk] *adj.* **1.** пусты́, чы́сты, незапо́ўнены; **a blank cheque** незапо́ўнены чэк; **a blank page** пуста́я старо́нка; **blank walls** пусты́я сцэ́ны **2.** бязду́мны, тупы́; **a blank stare** пусты́ по́зірк; *Suddenly my mind went blank*. Раптам у мяне ў галаве памутнела. **3.** по́ўны, абсалю́тны; **a blank refusal** катэгары́чная адмо́ва; адмо́ва наадрэ́з

**blanket** [ˈblæŋkɪt] *n.* **1.** ко́ўдра **2.** по́крыва; **a blanket of leaves** дыва́н з лісто́ты; **a blanket of snow** сне́жнае по́крыва; **under a blanket of secrecy** пад по́крывам сакрэ́тнасці

**blankly** [ˈblæŋkli] *adv.* **1.** абыя́кава; ту́па, невыра́зна; **stare blankly at smb./smth.** абыя́кава глядзе́ць на каго́-н./што-н. **2.** пра́ма, рашу́ча; катэгары́чна; **decline an offer blankly** рашу́ча адхілі́ць прапано́ву

**blare**[1] [bleə] *n.* рэ́зкі непрые́мны гук; **the blare of the brass** гу́кі ме́дных інструме́нтаў

**blare**[2] [bleə] *v.* **1.** рэ́зка гуча́ць; **blare (out) a warning** папярэ́дзіць аўтамабі́льным сігна́лам **2.** мо́цна крыча́ць; раўці́, гарла́ніць

**blarney** [ˈblɑːni] *n. infml* лісլі́васць

**blaspheme** [blæsˈfiːm] *v.* зневажа́ць Бо́га, блюзне́рыць

**blasphemer** [blæsˈfiːmə] *n.* блюзне́р; блюзне́рка; зневажа́льнік Бо́га; зневажа́льніца Бо́га

**blasphemous** [ˈblæsfəməs] *adj.* блюзне́рскі, богазневажа́льны

**blasphemy** [ˈblæsfəmi] *n.* блюзне́рства, богазневажа́нне

**blast**[1] [blɑːst] *n.* **1.** вы́бух; узрыва́нне; **a bomb blast** вы́бух бо́мбы **2.** струме́нь паве́тра; мо́цны парэ́ў/паве́ў (*ветру*); **the wind's icy blasts** маро́зныя пары́вы ве́тру **3.** кры́тыка, разго́н ♦ **at full blast** у по́ўным разга́ры

**blast**[2] [blɑːst] *v.* **1.** узрыва́ць, падрыва́ць **2.** мо́цна і рэ́зка гуча́ць (*пра музыку, радыё і да т.п.*) **3.** *infml* публі́чна крытыкава́ць, рабі́ць раз-

но́с; **blast one's reputation** руйнава́ць сваю́ рэпута́цыю; *The play was blasted by all the critics*. П'есу раскрытыкавалі ўшчэнт усе крытыкі.

**blast off** [ˌblɑːstˈɒf] *phr.v.* узлята́ць, адрыва́цца ад зямлі́, стартава́ць (*пра касмічны карабель*)

**blasted** [ˈblɑːstɪd] *adj.* **1.** зруйнава́ны, зні́шчаны; пашко́джаны **2.** *infml* пракля́ты; **blasted nuisance** жахлі́вая непрые́мнасць

**blast furnace** [ˈblɑːstˌfɜːnɪs] *n. tech*. до́мна

**blasting** [ˈblɑːstɪŋ] *n.* падрыва́нне (*скалаў*); узрыўны́я рабо́ты

**blatant** [ˈbleɪtnt] *adj.* **1.** страшэ́нны, абура́льны; *It was a blatant lie*. Гэта была абуральная хлусня. **2.** крыклі́вы, вульга́рны; разлі́чаны на эфе́кт, паказны́, зро́блены напака́з; **blatant courage** хра́брасць напака́з

**blaze¹** [bleɪz] *n.* **1.** по́лымя; я́ркі аго́нь; *The fire burst into a blaze*. Агонь успыхнуў яркім полымем. **2.** бляск, я́ркае святло́ або́ ко́лер **3.** бляск, раско́ша, пы́шнасць, хараство́; **a blaze of colour** раско́ша бліску́чых ко́лераў; **a blaze of glory** бляск сла́вы; **in the full blaze of beauty** ва ўсі́м бля́ску прыгажо́сці **4.** вы́бух (*пачуццяў*); **a blaze of anger** вы́бух зло́сці

**blaze²** [bleɪz] *v.* **1.** пала́ць, палымне́ць; я́рка гарэ́ць **2.** зіхаце́ць, ззяць; блішчэ́ць; *The flowerbed blazed with different colours*. Кветнік палыхаў рознымі колерамі. **3.** кіпе́ць, вар'ява́цца; **blaze with fury** кіпе́ць ад гне́ву

**blaze³** [bleɪz] *v.* разне́сці, раструбі́ць; **blaze a rumour** разно́сіць чу́ткі

**blazer** [ˈbleɪzə] *n.* блэ́йзер; пінжа́к

**blazing** [ˈbleɪzɪŋ] *adj.* **1.** я́ркі; асляпля́льны; зы́ркі; **a blazing hot day** я́ркі гара́чы дзень; **the blazing sun** зы́ркае со́нца **2.** страшэ́нны, абура́льны; **a blazing lie** абура́льная хлусня́

**bleach¹** [bliːtʃ] *n.* **1.** хло́рка **2.** адбе́льванне, бяле́нне

**bleach²** [bliːtʃ] *v.* **1.** бялі́ць, выбе́льваць; выбе́львацца **2.** выгара́ць; ліня́ць, выцвіта́ць (*на сонцы*)

**bleak** [bliːk] *adj.* **1.** змро́чны, хму́рны; безнадзе́йны; **a bleak smile** су́мная ўсме́шка; **bleak prospects** безнадзе́йныя перспекты́вы **2.** хало́дны, сцюдзёны; **a bleak winter's day** сцюдзёны зі́мні дзень **3.** го́лы; пусты́ (*без раслін*); адкры́ты для ве́тру; **a bleak hillside** го́лы схіл гары́

**bleat¹** [bliːt] *n.* бляя́нне (*авечкі, казы*); мы́канне (*цяляці*)

**bleat²** [bliːt] *v.* **1.** бляя́ць; мы́каць, мыча́ць **2. (on, about)** нарака́ць, скуго́ліць, ска́рдзіцца на лёс; *Stop bleating about your life*. Перастань скардзіцца на сваё жыццё.

**bled** [bled] *past, p.p.* → **bleed**

**bleed** [bliːd] *v.* **1.** крыва́віць, сцяка́ць крывёю; праліва́ць кроў (*у бітве*); **bleed to death** паме́рці ад стра́ты крыві́ **2.** *infml* вымага́ць гро́шы. *His ex-wife is bleeding him for every penny he has*. Яго былая жонка вымантачвае ў яго кожную капейку. **3.** паво́лі спуска́ць ваду́; выпуска́ць паве́тра **4.** абліва́цца крывёю, перажыва́ць, шкадава́ць; *My heart is bleeding for him*. Маё сэрца абліваецца крывёю за яго. ♦ **bleed smb. dry** спусто́шваць, выка́чваць усе́ гро́шы з каго́-н., абіра́ць каго́-н. да ні́ткі

**bleeding** [ˈbliːdɪŋ] *n.* крывацёк

**bleeding heart** [ˌbliːdɪŋˈhɑːt] *n.* залі́шне спага́длівы чалаве́к

**blemish¹** [ˈblemɪʃ] *n.* **1.** знак, пля́ма (*на целе*) **2.** недахо́п; пля́ма (*маральная*); га́ньба; *Her reputation is without a blemish*. Яе рэпутацыя беззаганная.

**blemish²** [ˈblemɪʃ] *v. fml* **1.** псава́ць, пля́міць **2.** псава́ць, га́ньбіць (*рэпутацыю, імя і да т.п.*)

**blend¹** [blend] *n.* **1.** су́месь; спалучэ́нне; **a blend of two sorts of tea** су́месь двух гату́нкаў ча́ю **2.** *ling*. тэлескапі́чнае/тэлеско́пнае сло́ва; *The word "motel" is a blend.* Слова «motel» – тэлескапічнае.

**blend²** [blend] *v.* **1.** змя́шваць; зме́швацца; *Blend together the flour, eggs and sugar.* Змяшайце разам муку, яйкі і цукар. **2. (with)** спалуча́ць; спалуча́цца; гарманізава́ць; злі́вацца; **blend traditional and modern styles** спалуча́ць традыцы́йныя і суча́сны стыль

**blend in** [ˌblendˈɪn] *phr.v.* **1.** спалуча́цца; *These colours blend in nicely*. Гэтыя колеры прыгожа спалучаюцца. **2.** падме́шваць, дадава́ць; *Blend in a little sugar into the mixture*. Дадайце крыху цукру ў гэтую сумесь.

**blender** [ˈblendə] *n.* **1.** мі́ксер, блэ́ндар **2.** мяша́лка

**bless** [bles] *v.* **1.** бла(га)слаўля́ць; свянці́ць, пасвянці́ць; **bless oneself** жагна́цца, хрысці́цца; *The priest blessed the willow branches.* Святар пасвянціў галінкі вярбы. **2.** *fml* дабраслаўля́ць, услаўля́ць, усхваля́ць; *We bless your holy name, O Lord.* Услаўляем тваё святое імя, Госпадзі. **3.** пра́сіць мі́ласці ў Бо́га **4.** быць удзя́чным, жада́ць дабра́; *God bless her for sincerity*. Дай Божа ёй здароўя за яе шчырасць. ♦ **be blessed with smth.** быць надзе́леным/азо́раным чым-н.; *He was blessed with great talent*. Бог даў яму вялікі талент; ***God bless you!*** Дай вам Бог здаро́ўя!; ***Bless me!*** О Бо́жа! (*выражае здзіўленне, спалох і да т.п.*); ***Bless you!*** Будзь здаро́ў! (*пры чханні*)

**blessed** [ˈblesɪd] *adj.* **1.** святы́; **the Blessed Virgin Mary** Свята́я Дзе́ва Мары́я, Багаро́дзіца **2.** ра́дасны, шчаслі́вы; *Those were the blessed days*. Гэта былі шчаслівыя дні. **3.** *infml*, *dated* пракля́ты; *I can't see a blessed thing in this dark room*. Я нічагуткі не бачу ў гэтым цёмным пакоі.

**blessing** [ˈblesɪŋ] *n.* **1.** блаславе́нне **2.** дабрадзе́йства; до́бры ўчы́нак **3.** дар; шча́сце ♦ **a blessing in disguise** шча́сце ў няшча́сці; ≅ не было́ б шча́сця, ды няшча́сце памагло́

**blew** [bluː] *past* → **blow**

**blind¹** [blaɪnd] *n.* **1.** што́ра; наве́с (*над вітрынай*); **a venetian blind** жалюзі́ **2.** адгаво́рка; падма́н, вы́думаная прычы́на

**blind²** [blaɪnd] *adj.* **1.** сляпы́; **go blind** асле́пнуць **2.** той, хто не ба́чыць, не звярта́е ўва́гі, не заўважа́е; **be blind to smb.'s faults** не заўважа́ць чы́іх-н. хі́баў; **be blind to the future** не заду́мвацца аб бу́дучым **3.** засле́плены; бязду́мны, безразва́жны; **blind faith** сляпа́я ве́ра **4.** ледзь ба́чны, схава́ны; непрыкме́тны; **a blind road** ледзь прыкме́тная даро́га; **a blind stitch** патайно́е шво ♦ **as blind as a bat** ≅ сляпы́ як крот; **turn a blind eye to smth.** не звярта́ць на што-н. ува́гі; **the blind leading the blind** сляпы́ вядзе́ сляпо́га

**blind³** [blaɪnd] *v.* **1.** асляпля́ць; сляпі́ць во́чы; *He was blinded in the explosion.* Ён аслеп падчас выбуху. **2.** **(to)** асляпля́ць, ура́жваць, мо́цна здзіўля́ць; **blind smb. to the truth** зрабі́ць каго́-н. сляпы́м да пра́ўды

**blind alley** [ˌblaɪndˈæli] *n.* тупі́к

**blind date** [ˌblaɪndˈdeɪt] *n.* нала́джаная сустрэ́ча незнаёмых мужчы́ны і жанчы́ны

**blindfold¹** [ˈblaɪndfəʊld] *adj.* **1.** з завя́занымі вачы́ма **2.** неразва́жны, неасцяро́жны; той, хто дзе́йнічае ўсляпу́ю

**blindfold²** [ˈblaɪndfəʊld] *v.* **1.** завя́зваць во́чы **2.** зацямня́ць, перашкаджа́ць ба́чыць (*што-н.*) або́ разабра́цца (*у чым-н.*); *Prejudices blindfold the mind.* Забабоны асляпляюць розум.

**blindfold³** [ˈblaɪndfəʊld] *adv.* **1.** з завя́занымі вачы́ма; **know one's way blindfold** до́бра ве́даць даро́гу **2.** бязду́мна, усляпу́ю; **act blindfold** дзе́йнічаць усляпу́ю

**blindly** [ˈblaɪndli] *adv.* **1.** во́бмацкам **2.** неразва́жна, наўздага́д; машына́льна; *He blindly followed the friend's advice.* Ён, не падумаўшы, паслухаўся парады сябра.

**blindness** [ˈblaɪndnəs] *n.* **1.** слепата́ **2.** асляпле́нне **3.** бязду́мнасць, неразва́жнасць

**blink¹** [blɪŋk] *n.* **1.** мірга́нне, падмі́ргванне **2.** міг, імгне́нне, вокамгне́нне, мо́мант ♦ **in the blink of an eye** ве́льмі ху́тка, імгне́нна, мі́гам; **on the blink** *infml* у ке́пскім ста́не, няспра́ўны (*пра машыну*)

**blink²** [blɪŋk] *v.* **1.** мо́ргаць, мірга́ць; *I'll be back before you can blink*. Не паспееш маргнуць, як я вярнуся. **2.** мíга́ць, мігце́ць; мірга́ць (*пра святло*) **3.** **(at)** заплю́шчваць во́чы (*на што-н.*)

**blinker** [ˈblɪŋkə] *n.* *infml* **1.** сігна́л міргá́ннем святла́ **2.** *pl.* **blinkers** шо́ры, ко́нскія наво́чнікі

**bliss** [blɪs] *n.* асало́да; шча́сце; вялі́кая ра́дасць; **a scene of domestic bliss** сцэ́на сяме́йнага шча́сця

**blissful** [ˈblɪsfəl] *adj.* шчаслі́вы; ра́дасны; **a blissful smile** шчаслі́вая ўсме́шка; **blissful memories** ра́дасныя ўспамі́ны

**blister¹** [ˈblɪstə] *n.* **1.** пухі́р (*на целе*), вады́р **2.** *med.* нарыўны́ пла́стыр

**blister²** [ˈblɪstə] *v.* пакрыва́ць; пакрыва́цца пухіра́мі/вадыра́мі; *The sap of this plant blisters the skin.* Ад соку гэтай расліны на скуры з'яўляюцца вадыры.

**blithe** [blaɪð] *adj.* **1.** **(for/of)** нядба́лы; бестурбо́тны, бесклапо́тны; **blithe disregard of the rule** гру́бае парушэ́нне пра́віла **2.** *lit.* шчаслі́вы, вясёлы

**blitz¹** [blɪts] *n.* **1.** нечака́ны гвалто́ўны напа́д; мо́цная бамбёжка **2.** **= blitzkrieg**

**blitz²** [blɪts] *v.* **1.** гвалто́ўна напада́ць, атакава́ць, імклі́ва наступа́ць; *They blitzed the town with tanks.* Танкі атакавалі горад. **2.** бамбі́ць, рабі́ць налёт

**blitzkrieg** [ˈblɪtskriːg] *n.* *mil.* блі́цкрыг, мала́нкавая вайна́

**blizzard** [ˈblɪzəd] *n.* сне́жная заве́я, заві́руха, мяце́ліца; бу́ра; **a trade blizzard** *infml* заняпа́д га́ндлю

**bloated** [ˈbləʊtɪd] *adj.* **1.** тлу́сты; азы́злы, напу́хлы; **a bloated body** азы́злае це́ла **2.** празме́рны, ду́ты, ве́льмі вялі́кі; **a bloated budget** разду́ты бюджэ́т

**blob** [blɒb] *n.* **1.** кро́пля; ша́рык (*гліны, воску*); **a blob of ink** кро́пля чарні́ла **2.** каляро́вая пля́мка; **a blob of paint** пля́мка фа́рбы

**bloc** [blɒk] *n.* блок, аб'ядна́нне (*палітычных партый, дзяржаў і да т.п.*); **opposing blocs** бло́кі, які́я супрацьстая́ць адзі́н аднаму́

**block¹** [blɒk] *n.* **1.** кало́да; цу́рка; глы́ба **2.** *hist.* пла́ха **3.** *BrE* шматкватэ́рны дом; жылы́ ко́рпус; будаўні́чы блок **4.** кварта́л (*у горадзе*); *His house is two blocks away from here*. Яго дом за два кварталы адсюль. **5.** блок (*цыгарэтаў*); кава́лак (*мыла*) **6.** перашко́да, зато́р; **a traffic block** зато́р у ру́ху **7.** блакіро́ўка

(*у спрэчы*) ♦ **put/lay one's head/neck on the block** рызыкава́ць жыццём

**block²** [blɒk] *v.* **1.** блакі́раваць; затры́мліваць; *All the roads are still blocked after the heavy snowfall.* Па дарогах нельга праехаць з-за моцнага снегападу. **2.** перашкаджа́ць, ства-ра́ць ця́жкасці; **block an appointment** пера-шко́дзіць назначэ́нню (*на пасаду*) **3.** блакі́-раваць (*у спорце*)

**block in** [ˌblɒkˈɪn] *phr.v.* накі́дваць план або́ чарнаві́к

**block off** [ˌblɒkˈɒf] *phr.v.* перакрыва́ць (*дарогу*)

**block up** [ˌblɒkˈʌp] *phr.v.* зачыня́ць; затыка́ць; *My nose is blocked up*. У мяне заложаны нос.

**blockade¹** [blɒˈkeɪd] *n.* блака́да; **an economic blockade** эканамі́чная блака́да; **break/run a blockade** прарва́ць блака́ду; **raise/lift a block-ade** зняць блака́ду

**blockade²** [blɒˈkeɪd] *v.* **1.** блакі́раваць **2.** замі-на́ць, перашкаджа́ць

**blockbuster** [ˈblɒkbʌstə] *n. infml* **1.** блокба́стар **2.** не́шта вялі́кае, паспяхо́вае, грандыёзнае

**blockhead** [ˈblɒkhed] *n. infml* ёлупень, дуры́ла, бо́ўдзіла

**block letter** [ˌblɒkˈletə] *n.* друкава́ная вялі́кая лі́тара; *Please fill in the form in block letters.* Запоўніце, калі ласка, бланк друкаванымі літарамі.

**blogger** [ˈblɒɡə] *n.* бло́гер; чалаве́к, які́ вядзе́ дзённік у інтэрнэ́це

**bloke** [bləʊk] *n. BrE, infml* тып (*пра мужчыну*)

**blond** [blɒnd] *adj.* бяля́вы; светлавало́сы (*пра мужчын*)

**blonde¹** [blɒnd] *n.* бландзі́нка

**blonde²** [blɒnd] *adj.* бяля́вая; светлавало́сая

**blood** [blʌd] *n.* **1.** кроў; **blood loss** стра́та крыві́; **give blood** здава́ць кроў (*як донарства*); **shed blood** *fml* праліва́ць кроў; *Blood rushed into her cheeks*. Яна пачырванела. **2.** *fml* радня́; пахо́джанне; **high/blue blood** радаві́тасць, «блакі́тная кроў»; **the ties of blood** кро́ўныя ву́зы; **one's own flesh and blood** сваяк, ро́дны **3.** паро́дзістасць ♦ **be/run in one's blood :** *It runs in your blood.* Гэта ў вас у крыві; **blood, sweat and tears** ця́жкая пра́ца; вялі́кія нама-га́нні; *The way to achieve success is through blood, sweat and tears.* Дасягнуць поспеху можна праз вялікія намаганні; **have smb.'s blood on one's hands** запля́міць ру́кі крывёю; быць вінава́тым у чыёй-н. сме́рці; **like get-ting blood out of/from a stone** ама́ль немагчы́-ма разжа́ліць; **make smb.'s blood run cold** мо́цна напало́хаць каго́-н.; **make smb.'s blood boil** мо́цна раззлава́ць каго́-н.

**blood group** [ˈblʌdɡruːp] *n.* гру́па крыві́

**bloodhound** [ˈblʌdhaʊnd] *n.* саба́ка-выве́днік

**bloodless** [ˈblʌdləs] *adj.* **1.** бяскро́ўны; **a blood-less coup** бяскро́ўны перавaро́т **2.** бле́дны **3.** вя́лы, мля́вы; анемі́чны

**bloodletting** [ˈblʌdletɪŋ] *n.* **1.** кровапралі́цце; бо́йня **2.** *med.* кровапуска́нне

**blood poisoning** [ˈblʌdˌpɔɪzənɪŋ] *n. med.* се́псіс, заражэ́нне крыві́

**blood pressure** [ˈblʌdˌpreʃə] *n.* крывяны́ ціск, ціск крыві́; **take smb.'s blood pressure** ме́-раць каму́-н. ціск крыві́

**bloodshed** [ˈblʌdʃed] *n.* праліццё крыві́; бо́йня

**bloodshot** [ˈblʌdʃɒt] *adj.* налі́тыя крывёю (*пра вочы*)

**bloodstain** [ˈblʌdsteɪn] *n.* пля́ма крыві́

**bloodstained** [ˈblʌdsteɪnd] *adj.* **1.** запля́млены крывёю **2.** вінава́ты ў забо́йстве

**bloodstream** [ˈblʌdstriːm] *n.* кровазваро́т

**bloodsucker** [ˈblʌdˌsʌkə] *n.* **1.** п'я́ўка; крыва-смо́к **2.** *infml* абдзіра́ла; крывапі́вец

**blood test** [ˈblʌdˌtest] *n.* ана́ліз крыві́

**bloodthirsty** [ˈblʌdθɜːsti] *adj.* **1.** крыважэ́рны, схі́льны да забо́йства; лю́ты **2.** жо́рсткі (*пра фільмы, кнігі і да т.п.*)

**blood vessel** [ˈblʌdˌvesl] *n.* крывяно́сны сасу́д

**bloody** [ˈblʌdi] *adj.* **1.** крыва́вы; **a bloody nose** скрыва́ўлены нос **2.** крыважэ́рны, лю́ты **3.** *BrE, slang, taboo* пракля́ты, хале́рны (*у ла-янцы*); *What bloody awful weather!* Якое пра-клятае надвор'е!; *He doesn't bloody care about the matter*. Ён ні халеры не думае пра справу.

**bloom¹** [bluːm] *n.* **1.** кве́тка, кра́ска; цвет, кве́-цень; **in bloom** у кве́цені; **burst into bloom** расцвісці́ **2.** ро́сквіт; **the bloom of youth** ро́с-квіт маладо́сці ♦ **in (full) bloom** у (по́ўным) ро́сквіце (*сіл*)

**bloom²** [bluːm] *v.* **1.** цвісці́, расцвіта́ць **2.** развi-ва́цца; квітне́ць; *The child had bloomed during his stay in the camp.* Дзіця набралася здароўя і сіл у лагеры.

**bloomer** [ˈbluːmə] *n. BrE, infml, dated* вялі́кая памы́лка, про́мах

**blossom¹** [ˈblɒsəm] *n.* **1.** цвет; цвіце́нне (*пра дрэвы*); *The trees are in blossom.* Дрэвы цві-туць. **2.** кве́тка; **apple blossom** я́блыневы цвет

**blossom²** [ˈblɒsəm] *v.* **1.** цвісці́, зацвіта́ць, рас-цвіта́ць **2. (into)** развіва́цца; перараста́ць; *Their friendship blossomed into love*. Іх сяброўскія адносіны перараслі ў каханне.

**blotch** [blɒtʃ] *n.* **1.** вялі́кая пля́ма; **come out in blotches** пакры́цца пля́мамі **2.** прышч

**blotchy** [ˈblɒtʃi] *adj.* прышчава́ты

займаецеся? **3.** адка́знасць, спра́ва; *It's none of your business*. Гэта цябе не датычыцца. **4.** камерцы́йнае прадпрые́мства, фі́рма; **start one's own business** адкры́ць сваю́ фі́рму; пача́ць сваю́ спра́ву ў бі́знесе ♦ **business is business** ≅ спра́ва спра́вай; **business before pleasure** спача́тку пра́ца, пасля́ заба́вы

**business card** [ˈbɪznəsˌkɑːd] *n.* (візі́тная) ка́ртка

**business English** [ˌbɪznəsˈɪŋglɪʃ] *n.* дзелава́я (англі́йская) мо́ва; дзелавы́ стыль

**businesslike** [ˈbɪznəslaɪk] *adj.* дзелавы́, дзелаві́ты; практы́чны

**businessman** [ˈbɪznəsmæn] *n.* (*pl.* **-men**) бізнесме́н; камерса́нт

**businesswoman** [ˈbɪznəswʊmæn] *n.* (*pl.* **-women**) дзелава́я жанчы́на, бізнесву́мен

**busk** [bʌsk] *v.* спява́ць або́ выступа́ць з канцэ́ртам на ву́ліцах

**busker** [ˈbʌskə] *n.* ба́скер, ву́лічны музы́ка, акцёр і да т.п.

**busman's holiday** [ˌbʌsmənzˈhɒlɪdi] *n.* свято́чны або́ выхадны́ дзень, праве́дзены за звыча́йнай пра́цай

**bus station** [ˈbʌsˌsteɪʃn] *n.* аўто́бусная ста́нцыя, аўтаста́нцыя

**bus stop** [ˈbʌsstɒp] *n.* аўто́бусны прыпы́нак

**bust¹** [bʌst] *n.* **1.** бюст (*скульптура*) **2.** ве́рхняя ча́стка це́ла; гру́дзі (*жанчыны*); бюст

**bust²** [bʌst] *v.* **1.** *infml* узлама́ць (*замок*); злама́ць, разбі́ць **2.** арыштава́ць

**bust up** [ˌbʌstˈʌp] *phr.v.* *infml* разыхо́дзіцца (*пра мужа і жонку*)

**bustle¹** [ˈbʌsl] *n.* мітусня́, бегані́на, шумі́ха; **the hustle and bustle of city life** гарадска́я мітусня́

**bustle²** [ˈbʌsl] *v.* мітусі́цца, спяша́цца

**bustling** [ˈbʌslɪŋ] *adj.* **(with)** шу́мны, мітуслі́вы; *The market was bustling with life.* Рынак шумеў і поўніўся жыццём.

**busy¹** [ˈbɪzi] *adj.* **1.** заня́ты **2.** дзелавы́ **3.** напру́жаны, інтэнсі́ўны; **a busy day** загру́жаны дзень; **a busy town** шу́мны го́рад; **a busy street** лю́дная ву́ліца ♦ **as busy as a bee** руплі́вы/працаві́ты як пчо́лка/мура́шка

**busy²** [ˈbɪzi] *v.* займа́цца (*чым-н.*); **busy oneself with smth.** заня́цца чым-н.

**busybody** [ˈbɪziˌbɒdi] *n.* **1.** назо́йлівы, надаку́члівы чалаве́к **2.** пляткА́р; пляткА́рка

**busy Lizzie** [ˌbɪziˈlɪzi] *n.* *bot.* бальзамі́на, бальзамі́н (*кветка*)

**but¹** [bʌt, bət] *prep.* апрача́, апро́ч, акрамя́; за выключэ́ннем; *All but he were present.* Усе, акрамя яго, прысутнічалі; *I came last but one in the race.* Я прыбег перадапошнім.

**but²** [bʌt, bət] *conj.* **1.** але́, адна́к, тым не менш **2.** за выключэ́ннем, акрамя́; *I had no choice but to sign the paper*. Мне нічога не заставалася, акрамя як падпісаць паперу. ♦ **but then** адна́к, з і́ншага бо́ку, але́

**butcher¹** [ˈbʊtʃə] *n.* **1.** мясні́к, гандля́р мя́сам **2.** бязлі́тасны забо́йца, кат

**butcher²** [ˈbʊtʃə] *v.* забіва́ць, біць, рэ́заць (*жывёлу*)

**butcher's** [ˈbʊtʃəz] *n.* мясна́я кра́ма

**butchery** [ˈbʊtʃəri] *n.* **1.** крыва́вая бо́йня; ма́савая разня́; жо́рсткае забо́йства **2.** прафе́сія мясніка́

**butler** [ˈbʌtlə] *n.* дварэ́цкі

**butt¹** [bʌt] *n.* **1.** то́ўсты кане́ц (*стрэльбы, прылады і да т.п.*) **2.** недаку́рак **3.** *AmE, infml* я́гадзіца

**butt²** [bʌt] *n.* **: a butt for ridicule** мішэ́нь для кпі́наў

**butt³** [bʌt] *v.* **1.** бі́ць галаво́ю **2.** баро́цца, бада́цца, басці́ся

**butt in** [ˌbʌtˈɪn] *phr.v.* бесцырымо́нна ўла́зіць (*у справу*)

**butter¹** [ˈbʌtə] *n.* ма́сла; **bread and butter** хлеб з ма́слам ♦ **look as if butter wouldn't melt in one's mouth** *infml* прыкі́двацца ціхо́няй

**butter²** [ˈbʌtə] *v.* нама́зваць ма́слам

**butter up** [ˌbʌtərˈʌp] *phr.v.* лislíвіць

**buttercup** [ˈbʌtəkʌp] *n.* *bot.* казяле́ц, лю́цік, курасле́п

**butter-dish** [ˈbʌtəˌdɪʃ] *n.* ма́сленіца

**butter-fingers** [ˈbʌtəˌfɪŋgəz] *n.* *infml* няўме́ка, нязда́ра, нязгрэ́ба; *She is a butter-fingers.* У яе ўсё з рук валіцца.

**butterfly** [ˈbʌtəflaɪ] *n.* **1.** маты́ль, матылёк (*таксама перан.*); **a social butterfly** све́цкая прыгажу́ня **2.** батэрфля́й (*стыль плавання*)

**buttermilk** [ˈbʌtəmɪlk] *n.* маслёнка

**buttock** [ˈbʌtək] *n.* *звыч. pl.* **buttocks** я́гадзіцы, зад

**button¹** [ˈbʌtn] *n.* **1.** гу́зік; **undo buttons** расшпі́льваць гу́зікі **2.** кно́пка; **press the button** наці́снуць на кно́пку

**button²** [ˈbʌtn] *v.* зашпі́льваць; зашпі́львацца; *The dress buttons at the back*. Сукенка зашпільваецца на спіне.

**buttonhole** [ˈbʌtnhəʊl] *n.* **1.** пятля́, пятлі́ца **2.** *BrE* бутанье́рка, кве́тка ў пятлі́цы

**buttress** [ˈbʌtrəs] *n.* *archit.* контрфо́рс, падпо́рка

**butty** [ˈbʌti] *n.* *BrE, infml* са́ндвіч; бутэрбро́д

**buxom** [ˈbʌksəm] *adj.* (*пра жанчыну*) по́ўная, паўнагру́дая; пы́шная, пу́льхная

**buy** [baɪ] *v.* **(bought) 1.** купля́ць, набыва́ць; **buy fame with one's life** здабы́ць сла́ву цано́й

жыццё **2.** падкупля́ць, дава́ць ха́бар; **buy electors** падкупля́ць вы́баршчыкаў

**buy in** [ˌbaɪˈɪn] *phr.v.* **1.** купля́ць, выкупля́ць на аўкцыёне **2.** скупля́ць а́кцыі **3.** запаса́цца, закупля́ць у запа́с

**buy off** [ˌbaɪˈɒf] *phr.v.* адкупі́цца (*ад канкурэнтаў, шантажыстаў і да т.п.*)

**buy out** [ˌbaɪˈaʊt] *phr.v.* выкупля́ць до́лю

**buy up** [ˌbaɪˈʌp] *phr.v.* скупля́ць

**buyer** [ˈbaɪə] *n.* пакупні́к ♦ **a buyer's market** кан'юнкту́ра ры́нку, выго́дная для пакупніка́

**buyout** [ˈbaɪaʊt] *n.* заку́пка ўсёй па́ртыі тава́ру

**buzz**[1] [bʌz] *n.* **1.** гудзе́нне; глухі́ гул (*натоўпу*) **2.** *infml* мо́цнае задавальне́нне; *Flying gives me a real buzz.* Лятаць – для мяне сапраўдны кайф. **3. the buzz** *infml* плёткі, чу́ткі ♦ **give smb. a buzz** *infml* патэлефанава́ць каму́-н.

**buzz**[2] [bʌz] *v.* **1.** гусці́, гудзе́ць **2.** ху́тка і шу́мна ру́хацца, хадзі́ць туды́ і сюды́; *The town was buzzing with tourists.* Горад гудзеў ад турыстаў.

**buzz about** [ˌbʌzəˈbaʊt] *phr.v.* ху́тка ру́хацца, мітусі́цца, хадзі́ць туды́ і сюды́

**buzz around** [ˌbʌzəˈraʊnd] *phr.v.* = **buzz about**

**buzz off** [ˌbʌzˈɒf] *phr.v.* *infml* адыхо́дзіць; **Buzz off!** Ідзі прэч!

**buzzard** [ˈbʌzəd] *n.* *BrE, zool.* ка́ня, канюк (*птушка*)

**buzzer** [ˈbʌzə] *n.* **1.** гудо́к; звано́к **2.** *electr.* зу́мер

**buzzword** [ˈbʌzwɜːd] *n.* *infml* спецыя́льны мо́дны тэ́рмін

**by**[1] [baɪ] *adv.* **1.** мі́ма; *The bus went by.* Аўтобус праехаў міма. **2.** паблі́зу, блі́зка, по́бач; **stand by** стая́ць по́бач **3. : put money by** запа́сіць/адкла́дваць гро́шы ♦ **by and by** *dated* неўзаба́ве, ху́тка

**by**[2] [baɪ] *prep.* **1.** каля́, по́бач з; **stand by the window** стая́ць каля́ акна́; *Sit by me!* Пасядзі побач са мною. **2.** (*пра напрамак*) мі́ма, уздо́ўж; **a path by the river** сце́жка ўздо́ўж ракі́; *He walked by me.* Ён прайшоў міма мяне. **3.** (*пра час*) да, пры; **by Monday** да панядзе́лка; **by 4 o'clock** да 4-й гадзі́ны; **by moonlight** пры святле́ ме́сяца; **by night** уначы́ **4.** (*пры абазначэнні дзеяча ў пасіўных канструкцыях адпавядае тв. скл.*) **:** *The palace was built by Napoleon.* Палац быў пабудаваны Напалеонам; *The town was destroyed by fire.* Горад быў знішчаны пажарам. **5.** (*абазначае аўтарства, адпавядае родн. скл.*) **: a play by Shakespeare** п'е́са Шэкспі́ра **6.** (*абазначае спосаб дзеяння, манеру*) **: earn money by writing** зарабля́ць гро́шы літарату́рнай пра́цай; **enter by the door** увайсці́ праз дзве́ры; **send by airmail** пасыла́ць авіяпо́штай; **take smb. by the hand** узя́ць каго́-н. за руку́; **travel by car** е́хаць на машы́не; **by accident** выпадко́ва; **by mistake** памылко́ва; **little by little** патро́ху; **step by step** крок за кро́кам, паступо́ва **7.** (*у адпаведнасці з, згодна з, паводле*) па, пад; **by the rules** па пра́вілах; **a doctor by profession** ура́ч па прафе́сіі; *He goes by the name of John.* Ён вядомы пад імем Джон. **8.** (*пры ўказанні на колькасць*) на, за; **older by 2 years** старэ́йшы на 2 гады́; **divide 10 by 5** дзялі́ць 10 на 5; **sell by the metre** прадава́ць ме́трамі; **pay by the hour** плаці́ць пагадзі́нна **9.** (*у клятвах*) **:** *By God he has done it!* Клянуся Богам, ён гэта зрабіў! ♦ **by the way/by the by** між і́ншым, дарэ́чы; *By the way, what happened to her later?* Дарэчы, што з ёю сталася пазней?

**bye, bye-bye** [baɪ, ˌbaɪˈbaɪ] *interj. infml* быва́й!; быва́йце!; паку́ль!; да пабачэ́ння; да спатка́ння; быва́йце здаро́вы; *She waved bye-bye.* Яна памахала рукой на развітанне.

**by-election** [ˈbaɪɪˌlekʃn] *n.* *BrE* дадатко́выя вы́бары

**Byelorussian**[1] [bjeləˈrʌʃn] *n.* *hist.* → **Belarusian**[1]

**Byelorussian**[2] [ˌbjeləˈrʌʃn] *adj.* *hist.* → **Belarusian**[2]

**bygone** [ˈbaɪgɒn] *adj.* міну́лы, перажы́ты; **bygone years** міну́лыя гады́; *"The Tale of Bygone Years"* «Апо́весць міну́лых гадо́ў» (*твор*)

**bygones** [ˈbaɪgɒnz] *n. pl.* **:** ♦ **let bygones be bygones** ≅ што прайшло́, то́е быльнягом парасло́; траво́ю зарасло́ і вадо́ю сплыло́

**by-law** [ˈbaɪlɔː] *n.* **1.** *BrE* пастано́ва о́рганаў мясцо́вай ула́ды **2.** *AmE* зако́н або́ пра́віла клу́ба ці фі́рмы

**bypass**[1] [ˈbaɪpɑːs] *n.* **1.** аб'е́зд, аб'язна́я даро́га **2.** *med.* абво́д, абхо́д (*пра аперацыю*); **heart bypass surgery** абво́дная апера́цыя на сэ́рцы

**bypass**[2] [ˈbaɪpɑːs] *v.* аб'язджа́ць, абхо́дзіць; віля́ць, хітры́ць

**by-product** [ˈbaɪˌprɒdʌkt] *n.* **1.** пабо́чны праду́кт **2.** пабо́чны вы́нік; *One of the by-products of unemployment is an increase in crime.* Адным з вынікаў беспрацоўя з'яўляецца павелічэнне злачыннасці.

**byre** [ˈbaɪə] *n.* *BrE, dated* хле́ў, каро́ўнік

**byroad** [ˈbaɪrəʊd] *n.* **1.** прасёлкавая даро́га **2.** аб'е́зд, аб'язна́я даро́га

**bystander** [ˈbaɪˌstændə] *n.* све́дка, назіра́льнік (*здарэнняў*); **a casual bystander** выпадко́вы све́дка

**byte** [baɪt] *n.* *comput.* байт

**byway** [ˈbaɪweɪ] *n.* **1.** прасёлкавая даро́га **2. byways** *pl.* маладасле́даваная або́ малазна́чная галіна́ (*навукі, ведаў і да т.п.*)

**byword** [ˈbaɪwɜːd] *n.* **1.** сі́мвал, увасабле́нне **2.** пры́маўка, крыла́тае сло́ва

**Byzantine** [b(a)ɪˈzæntaɪn] *adj.* **1.** візанты́йскі; **Byzantine style** візанты́йскі стыль **2.** *fml* заблы́таны, склада́ны; **an organization of byzantine complexity** арганіза́цыя візанты́йскай склада́насці (*па сваёй структуры*)

## Cc

**C, c** [siː] *n. 3-я літара англійскага алфавіта*

**C¹** [siː] *n. mus.* но́та «до»

**C²** [siː] *n.* акадэмі́чная адзна́ка «здавальня́юча»; *She got a C in maths.* Яна атрымала «здавальняюча» па матэматыцы.

**C³** (*пісьмовае скар. ад* **Celsius**/**centigrade**) гра́дус/гра́дусы па Цэ́льсію/па стагра́дуснай шкале́

**c.** (*пісьмовае скар. ад*): **1. century** стаго́ддзе **2. circa** *лацін.* пры́кладна, прыблі́зна; **born c. 1830** нарадзі́ўся прыблі́зна ў 1830 го́дзе **3. cent** цэнт

**ca** (*пісьмовае скар. ад* **circa**) прыблі́зна, пры́кладна

**cab** [kæb] *n.* **1.** таксі́; **take a cab** узя́ць таксі́; **go by cab** е́хаць на таксі́ **2.** кабіна (*грузавіка, аўтобуса, цягніка, пад'ёмнага крана*)

**cabal** [kəˈbæl] *n. fml* клі́ка (*палітычная*); гру́па змо́ўшчыкаў; інтры́га, змо́ва

**cabana** [kəˈbɑːnə] *n. AmE* **1.** кабінка на пля́жы **2.** бу́дка, ха́тка

**cabaret** [ˈkæbəreɪ] *n.* **1.** заба́ва, прадстаўле́нне (*песні і танцы*), яко́е дэманстру́ецца кліе́нтам у рэстара́не/начны́м клу́бе **2.** рэстара́н, начны́ клуб, кабарэ́; **a singer in a cabaret** співа́к кабарэ́

**cabbage** [ˈkæbɪdʒ] *n.* капу́ста

**cabbie, cabby** [ˈkæbi] *n. infml* таксі́ст

**cabin** [ˈkæbɪn] *n.* **1.** каю́та; **book a cabin on a boat** заказа́ць каю́ту на караблі́ **2.** кабі́на; **the pilot's cabin** кабі́на піло́та **3.** хаці́на, ха́тка; камо́рка, бу́дка; бара́к; **a summer cabin** ле́цішча, да́ча

**cabin boy** [ˈkæbɪnbɔɪ] *n. naut.* ю́нга (*на караблі*)

**cabinet** [ˈkæbɪnət] *n.* **1.** серва́нт, ша́фка; **a kitchen cabinet** кухо́нная ша́фка **2. the Cabinet** кабіне́т (міні́страў); **in cabinet** на пасяджэ́нні кабіне́та міні́страў; **the Shadow Cabinet** *BrE* ценявы́ кабіне́т

**cabinetmaker** [ˈkæbɪnətmeɪkə] *n.* сталя́р-чырванадрэ́ўшчык

**cable¹** [ˈkeɪbl] *n.* **1.** кана́т, трос **2.** ка́бель **3.** тэлегра́ма; **send smb./receive a cable** пасыла́ць каму́-н./атры́мліваць тэлегра́му

**cable²** [ˈkeɪbl] *v. dated* тэлеграфава́ць

**cablegram** [ˈkeɪblgræm] *n. dated* тэлегра́ма (*якая перадаецца па кабелі*)

**cable railway** [ˌkeɪblˈreɪlweɪ] *n.* фунікулёр

**cable television** [ˌkeɪblˈtelɪvɪʒn] *n.* ка́бельнае тэлеба́чанне

**cablevision** [ˌkeɪblˈvɪʒn] *n.* ка́бельнае тэлеба́чанне

**caboodle** [kəˈbuːdl] *n.* : ♦ **the whole (kit and) caboodle** *infml* усё

**cab rank** [ˈkæbræŋk] *n.* стая́нка таксі́

**cacao** [kəˈkɑːəʊ] *n.* (*pl.* **-os**) кака́ва (*дрэва*; *бабы*)

**cackle¹** [ˈkækl] *n.* **1.** квахта́нне, куда́хтанне **2.** го́гат (*крык гусей*) **3.** ро́гат, хіхі́канне **4.** балбатня́, гамана́, пустасло́ўе; *Cut the cackle!* Хопіць балбатаць!

**cackle²** [ˈkækl] *v.* **1.** квахта́ць, куда́хтаць **2.** балбата́ць, мало́ць (*языком*)

**cacti** [ˈkæktaɪ] *pl.* → **cactus**

**cactus** [ˈkæktəs] *n.* (*pl.* **cactuses** *or* **cacti**) ка́ктус

**CAD** [ˌsiːeɪˈdiː, kæd] *n.* (*скар. ад* **computer-aided design**) камп'ю́тарная гра́фіка

**cadaver** [kəˈdɑːvə] *n. med.* труп

**caddie, caddy** [ˈkædi] *n. sport* той, хто падно́сіць клю́шкі і мячы́ (*у час гульні ў гольф*)

**cadence** [ˈkeɪdns] *n.* **1.** *fml* зніжэ́нне го́ласу **2.** *mus.* кадэ́нцыя

**cadet** [kəˈdet] *n.* кадэ́т; малады́ чалаве́к, які́ прахо́дзіць падрыхто́ўку, каб стаць паліцэ́йскім або́ афіцэ́рам узбро́еных сіл; **a cadet corps** кадэ́цкі ко́рпус

**cadge** [kædʒ] *v. BrE, infml* папраша́йнічаць, жабрава́ць, кля́нчыць, кле́нчыць

**café** [ˈkæfeɪ] *n.* кафэ́, кавя́рня

**cafeteria** [ˌkæfəˈtɪəriə] *n.* кафетэ́рый

**caftan, kaftan** [ˈkæftæn] *n.* капта́н

**cage** [keɪdʒ] *n.* кле́тка

**cagoule** [kəˈguːl] *n. BrE* дажджаві́к, лёгкі непрамака́льны плашч

**cahoots** [kəˈhuːts] *n.* : ♦ **be in cahoots (with smb.)** *infml* быць у змо́ве (з кім-н.)

**cake** [keɪk] *n.* **1.** торт, пі́ро́жнае; кекс; піро́г **2.** ляпёшка **3.** кава́лак, кава́лачак (*мыла*) ♦ **cakes and ale** весяло́сць, прые́мнасць; **you cannot have your cake and eat it too** адзі́н піро́г не́льга з'е́сці двойчы

**caked** [keɪkt] *adj.* абле́плены; *My shoes are caked with mud.* На мае чаравікі наліплі камякі гразі.

**cal** [kæl] (*скар. ад* **calorie**) калóрыя

**calamine** [ˈkæləmaɪn] *n.* каламíн; **calamine lotion** каламíнавы ласьён

**calamitous** [kəˈlæmɪtəs] *adj. fml* бядóтны; згýбны, пагíбельны; катастрафíчны

**calamity** [kəˈlæməti] *n.* бядá, няшчáсце; бéдства, катастрóфа

**calcium** [ˈkælsiəm] *n. chem.* кáльцый

**calculate** [ˈkælkjəleɪt] *v.* **1.** вылíчваць, вылічáць, рахавáць **2.** спадзявáцца; меркавáць

**calculated** [ˈkælkjəleɪtɪd] *adj.* **1.** вы́лічаны, падлíчаны; разлікóвы **2.** наўмы́сны, зрóблены з разлíкам; **a calculated insult** наўмы́сная абрáза/знявáга; **a calculated risk** свядóмая ры́зыка

**calculating** [ˈkælkjəleɪtɪŋ] *adj.* **1.** лічы́льны, падлікóвы; **a calculating machine** лічы́льная машы́на **2.** асцярóжны **3.** кары́слівы, карысталюбíвы, карысталю́бны

**calculation** [ˌkælkjəˈleɪʃn] *n.* **1.** вылічэ́нне, вылíчванне; **at/on a rough calculation** па прыблíзных падлíках; **be out in one's calculations** памылíцца ў вылічэ́ннях/у падлíках/у разлíках **2.** абдýмванне, узвáжванне **3.** кары́слівыя намéры, меркавáнні; **by one's calculations** па чыíх-н. разлíках/меркавáннях

**calculator** [ˈkælkjəleɪtə] *n.* калькулятар, лічы́льная машы́нка

**calculus** [ˈkælkjələs] *n. math.* злічэ́нне

**calendar** [ˈkæləndə] *n.* каляндáр; **a calendar for 2014** каляндáр на 2014 год

**calf**[1] [kɑːf] *n.* (*pl.* **calves**) цяля́, цялё (*каровы*); сланяня́, сланянё; дзіцяня́ кітá

**calf**[2] [kɑːf] *n.* (*pl.* **calves**) лы́тка (*частка нагі*)

**calfskin** [ˈkɑːfskɪn] *n.* цяля́чая скýра

**calico** [ˈkælɪkəʊ] *n.* (*pl.* **calicoes**) каленкóр; *BrE* міткáль, паркáль

**call**[1] [kɔːl] *n.* **1.** крык, вóкліч; **a call for help** крык аб дапамóзе; **the call of an owl** крык савы́; **within call** паблíзу, пóбач, непадалёку, у мéжах чýтнасці **2.** тэлефóнны званóк, вы́клік, размóва (*па тэлефоне*); **a local call** мясцóвы тэлефóнны вы́клік; **a long-distance call** міжгарóдні тэлефóнны вы́клік; **give smb. a call** пазванíць камý-н. па тэлефóне; **make a phone call** пазванíць па тэлефóне; **return smb.'s call** перазванíць камý-н.; *There's a call for you from Paris.* Вас выклікае Парыж. **3.** (*кароткі*) візíт, навéдванне; захóд (*карабля ў порт*); **a courtesy call** візíт вéтлівасці; **a place/a port of call** мéсца/порт захóду; **a return call** візíт у адкáз; **make/pay a call on smb.** навéдаць кагó-н., завітáць да кагó-н., нанéсці камý-н. візíт; *I have several calls to make.* Мне трэба зайсці ў некалькі месцаў. **4.** патрабавáнне; пóпыт; патрэ́ба; неабхóднасць; **money on call/money payable at/on call** пазы́ка да запатрабавáння; **no call for smb./smth.** нямá патрэ́бы ў кім-н./чым.-н.; *I have many calls on my time.* У мяне зусім няма вольнага часу; *There's little call for his services.* Яго паслугі не карыстаюцца вялікім попытам. ♦ **a close call** *infml* небяспéчнае/рызыкóўнае станóвішча; ≅ на валасóк ад пагíбелі; **on call** па запатрабавáнні, па вы́кліку

**call**[2] [kɔːl] *v.* **1.** назывáць, давáць імя́; *What is it called in Belarusian?* Як гэта будзе па-беларуску? **2.** клíкаць, зваць, гукáць; **call for help** клíкаць на дапамóгу; **call on/upon someone to do smth.** *fml* заклікáць кагó-н. зрабíць штó-н.; **call to mind** узгáдваць, успамінáць, прыпамінáць; **call to witness** заклікáць у свéдкі; **call smth. to a halt** спынíць штó-н.; **till called for** да запатрабавáння **3.** тэлефанавáць, званíць, выклікáць па тэлефóне; **call an ambulance/a doctor/a taxi** выклікáць хýткую дапамóгу/дóктара/таксí **4.** склікáць, ззывáць, арганізóўваць; **call a meeting** склікáць сход **5.** навéдваць, захóдзіць, завíтваць; **call at** захóдзіць куды́-н.; спыня́цца дзе-н. (*аб транспартных сродках*); **call on smb**. зайсцí да кагó-н. ♦ **call a spade a spade** назывáць рэ́чы сваíмі імёнамі; **call it a day** *infml* давóлі, дóсыць (працавáць), на сёння хóпіць; **call smb.'s bluff** не даць камý-н. ашукáць сябé; **call smb. to account** прыцягваць кагó-н. да адкáзнасці; **call smb. names** абзывáць, абражáць кагó-н.

**call back** [ˌkɔːlˈbæk] *phr.v.* клíкаць назáд, адклікáць; перазванíць, пазванíць (*у адказ на тэлефонны званок*); **call back one's words** узя́ць сваé слóвы назáд

**call forth** [ˌkɔːlˈfɔːθ] *phr.v. fml* выклікáць (*эмоцыі, пачуцці і г.д.*)

**call in** [ˌkɔːlˈɪn] *phr.v.* **1.** выклікáць, запрашáць; пасылáць па (*кагó-н.*); **2.** патрабавáць вярнýць (*доўг*); **call in/into question** стáвіць пад сумнéнне

**call off** [ˌkɔːlˈɒf] *phr.v.* адмяня́ць, касавáць; адкладáць, адклáдваць

**call out** [ˌkɔːlˈaʊt] *phr.v.* кры́кнуць; выклікáць (*пажарную каманду, узброеныя сілы*); выкрывáць, выяўля́ць

**call up** [ˌkɔːlˈʌp] *phr.v.* **1.** тэлефанавáць, званíць па тэлефóне **2.** выклікáць (*успаміны*) **3.** прызывáць на вóінскую/вайскóвую слýжбу

**call box** [ˈkɔːlbɒks] *n.* тэлефóн-аўтамáт; *AmE* тэлефóнная кабíна

**caller** [ˈkɔːlə] *n.* **1.** наве́двальнік **2.** абане́нт (*той, хто тэлефануе*)
**call girl** [ˈkɔːlgɜːl] *n.* прастыту́тка па тэлефо́нным вы́кліку
**calligraphy** [kəˈlɪgrəfi] *n.* **1.** каліграфія **2.** прыго́жы по́чырк
**calling** [ˈkɔːlɪŋ] *n.* **(for)** прызва́нне, схі́льнасць; прафе́сія
**callisthenics** [ˌkælɪsˈθenɪks] *n.* гімна́стыка, пла́стыка, рытмі́чная гімна́стыка; **free callisthenics** маста́цкая гімна́стыка
**callous** [ˈkæləs] *adj.* бязду́шны, бессардэ́чны, нячу́лы, неадчува́льны, чэ́рствы, абыя́кавы; **a callous answer** бязду́шны адка́з; **callous indifference** чэ́рствая абыя́кавасць; **a callous man** бессардэ́чны чалаве́к
**calloused** [ˈkæləst] *adj.* мазо́лісты; **calloused hands** мазо́лістыя ру́кі
**callow** [ˈkæləʊ] *adj. fml* няста́лы; нявóпытны, недасве́дчаны; **a callow youth** зялёны юна́к
**callus** [ˈkæləs] *n. med.* мазо́ль
**calm**[1] [kɑːm] *n.* цішыня́, заці́шша; **a dead calm** *naut.* мёртвы штыль ♦ **the calm before the storm** заці́шша пе́рад бу́рай
**calm**[2] [kɑːm] *adj.* ці́хі, ціхамі́рны, спако́йны; рахма́ны; **a calm night** ці́хая ноч; **calm weather** ці́хае, бязве́транае надво́р'е; *He is always calm.* Ён заўсёды спакойны; *Please, keep calm.* Не хвалюйцеся, калі ласка.
**calm**[3] [kɑːm] *v.* супако́йваць; супако́йвацца
**calm down** [ˌkɑːmˈdaʊn] *phr.v.* супако́йваць; супако́йвацца
**calmly** [ˈkɑːmli] *adv.* ці́ха, спако́йна, ціхмя́на
**calmness** [ˈkɑːmnəs] *n.* спако́й, цішыня́; ці́ша
**calorie** [ˈkæləri] *n.* кало́рыя
**calorific** [ˌkæləˈrɪfɪk] *adj.* калары́йны; цеплатво́рны
**calumny** [ˈkæləmni] *n. fml* паклёп
**Calvary** [ˈkælvəri] *n. bibl.* Галго́фа
**calves** [kɑːvz] *pl.* → **calf**
**came** [keɪm] *past* → **come**
**camel** [ˈkæml] *n.* вярблю́д
**cameo** [ˈkæmiəʊ] *n.* (*pl.* **cameos**) **1.** я́ркая эпізады́чная ро́ля, яку́ю сыгра́ў вядо́мы акцёр (*у тэатры, кіно*) **2.** каме́я
**camera** [ˈkæmərə] *n.* фотаапара́т; кінака́мера; тэлека́мера ♦ **be on camera** здыма́цца (*на тэлебачанні*); **in camera** *fml* на закры́тым (*судовым*) пасяджэ́нні; пры зачы́неных дзвяра́х; канфідэнцыя́льна
**cameraman** [ˈkæmrəmən] *n.* (*pl.* **-men**) фотарэпарцёр; кінааперáтар
**camomile, chamomile** [ˈkæməmaɪl] *n. bot.* рамо́нак, рамо́н; **camomile tea** насто́й рамо́нку
**camouflage** [ˈkæməflɑːʒ] *n.* маскіро́ўка, камуфля́ж
**camp**[1] [kæmp] *n.* ла́гер, прыва́л; **a concentration camp** канцэнтрацы́йны ла́гер; **the opposition camp** ла́гер апазі́цыі; **make/pitch camp** станаві́цца ла́герам, размяшча́цца ла́герам, разбіва́ць ла́гер
**camp**[2] [kæmp] *v.* ста́віць, разбіва́ць пала́ткі; жыць у час вандрава́ння/адпачы́нку ў пала́тцы; размяшча́цца ла́герам
**campaign**[1] [kæmˈpeɪn] *n.* кампа́нія; пахо́д; гара́чая пара́; **an election/electoral campaign** вы́барчая кампа́нія; **an advertising campaign** рэкла́мная кампа́нія; **an all-out campaign** усеагу́льная кампа́нія; **a fundraising campaign** кампа́нія па збо́ры сро́дкаў; **a campaign for human rights** кампа́нія за правы́ чалаве́ка; **a campaign to raise money for the needy** кампа́нія па збо́ры гро́шай для тых, хто жыве́ ў няста́чы/бе́днасці/гале́чы; **launch/trigger a campaign** пача́ць/распача́ць/разгарну́ць кампа́нію
**campaign**[2] [kæmˈpeɪn] *v.* **(for/against)** право́дзіць кампа́нію; выступа́ць; агітава́ць
**campaigner** [kæmˈpeɪnə] *n.* удзе́льнік кампа́ніі; **a chronic campaigner** пастая́нны ўдзе́льнік кампа́ній
**camp bed** [ˌkæmpˈbed] *n. BrE* пахо́дны/складны́ ло́жак
**camp cot** [ˌkæmpˈkɒt] *n. AmE* = **camp bed**
**camper** [ˈkæmpə] *n.* **1.** туры́ст **2.** жылы́ аўтапрычэ́п
**camping** [ˈkæmpɪŋ] *n.* адпачы́нак у пала́тках; **go camping** хадзі́ць у турысты́чныя пахо́ды, жыць у час адпачы́нку ў пала́тках; **a camping site** ме́сца для адпачы́нку ў пала́тках
**campsite** [ˈkæmpsaɪt] *n.* ме́сца для адпачы́нку ў пала́тках
**campus** [ˈkæmpəs] *n.* універсітэ́цкі або́ шко́льны гарадо́к; ка́мпус; **live on (the) campus** жыць ва ўніверсітэ́цкім або́ шко́льным гарадку́
**can**[1] [kæn, kən, kn] *modal v.* **(could)** (*адмоўныя формы* **cannot**, **can't**) *азначае* **: 1.** (*аб'ектыўную магчымасць*) магу́, мо́жаш, мо́жа; ма́ю, ма́еш, ма́е і г.д.; магчы́масць/мажлі́васць; *I can do it.* Я магу гэта зрабіць; *Can you see that?* Вы гэта бачыце? **2.** (*уменне, здольнасць*) уме́ю, уме́еш, уме́е і г.д.; магу́, мо́жаш, мо́жа і г.д. *He can speak French.* Ён можа/умее размаўляць па-французску; *I can't swim.* Я не ўмею плаваць. **3.** (*дазвол, забарону*) мо́жна; не́льга; *He can go.* Яму можна ісці; *You can't play football here.* Тут нельга гуляць у футбол. **4.** (*сумненне* (*у пытальных і адмоўных*

*сказах*)) *Can it be true?* Няўжо гэта праўда?; *She can't have said it!* Не можа быць, каб яна сказала гэта!

**can²** [kæn] *n.* бляша́нка; ба́нка; біто́н; камі́стра; **a can of beer** ба́нка/бляша́нка пі́ва

**can³** [kæn] *v.* кансервава́ць (*прадукты харчавання*); **canned fish/meat** ры́бныя/мясны́я кансе́рвы; **canned fruit** кансервава́ная садаві́на; **canned music** *infml* музы́чныя за́пісы

**Canadian¹** [kəˈneɪdiən] *n.* кана́дзец; кана́дка; **the Canadians** кана́дцы

**Canadian²** [kəˈneɪdiən] *adj.* кана́дскі; **Canadian French** францу́зская мо́ва кана́дцаў

**canal** [kəˈnæl] *n.* кана́л; **an irrigation canal** араша́льны кана́л

**canard** [ˈkænɑːd, kæˈnɑːd] *n. fml* ілжы́вая чу́тка; сенсацы́йная вы́думка; (*газетная*) ву́тка

**canary** [kəˈneəri] *n.* **1.** канарэ́йка **2.** я́рка-жо́ўты ко́лер

**cancel** [ˈkænsl] *v.* **1.** адмяня́ць, касава́ць, ануля-ва́ць; **cancel a contract** скасава́ць кантра́кт; **cancel a debt** ануля́ваць доўг; **cancel an order** адмяні́ць зака́з; **cancel a treaty** ануля-ва́ць/скасава́ць дагаво́р **2.** выкрэ́сліваць, выкасо́ўваць (*напісанае*) **3.** пагаша́ць (*паштовыя маркі*)

**cancel out** [ˌkænslˈaʊt] *phr.v.* ураўнава́жваць, збалансо́ўваць; нейтралізава́ць

**cancellation** [ˌkænsəˈleɪʃn] *n.* адме́на, ануляв́анне, спыне́нне, скасава́нне

**cancer** [ˈkænsə] *n.* **1.** *med.* рак **2. Cancer** *astron.* Рак (*сузор'е*); **the tropic of Cancer** тро́пік Ра́ка **3. Cancer** *astrol.* Рак (*знак задыяка*; *чалавек, які нарадзіўся пад гэтым знакам*)

**candid** [ˈkændɪd] *adj.* шчы́ры, чыстасардэ́чны, адкры́ты, праўдзі́вы, прамы́

**candidacy** [ˈkændɪdəsi] *n.* кандыдату́ра

**candidate** [ˈkændɪdət] *n.* **(for)** кандыда́т; **offer oneself as a candidate** вы́лучыць сваю́ кандыдату́ру; **stand as a Labour candidate** быць кандыда́там ад лейбары́стаў

**candle** [ˈkændl] *n.* све́чка ♦ **burn the candle at both ends** безразва́жна растра́чваць сі́лы/здаро́ўе; **cannot/is not fit to hold a candle to** ≅ не ідзе́ ні ў яко́е параўна́нне; ≅ падно́ска не ва́рты; **the game is not worth the candle** ≅ аўчы́нка не ва́рта вы́рабу

**candlelight** [ˈkændllaɪt] *n.* **1.** святло́ све́чкі; **dine by candlelight** вячэ́раць пры све́чках **2.** змярка́нне, пры́цемак

**Candlemas (Day)** [ˈkændlməs(deɪ)] *n.* Грамні́цы (*свята*)

**candlestick** [ˈkændlstɪk] *n.* падсве́чнік

**candor** [ˈkændə] *AmE* = **candour**

**candour** [ˈkændə] *n.* шчы́расць, адкры́тасць, чыстасардэ́чнасць

**C & W** [ˌsiːənˈdʌbljuː] *n.* (*скар. ад* **country and western**) му́зыка ка́нтры, папуля́рная му́зыка ў сты́лі, які́ характэ́рны для паўднёвых і заходніх раёнаў ЗША

**candy** [ˈkændi] *n. AmE* **1.** цуке́рка, ледзяне́ц **2.** ласу́нак, прысма́кі ♦ **like taking candy from a baby** *infml* ве́льмі лёгка, ве́льмі про́ста

**candyfloss** [ˈkændiflɒs] *n. BrE* цукро́вая ва́та

**cane¹** [keɪn] *n.* **1.** сцябло́ (*чароту, трыснягу, бамбуку*) **2.** чаро́т; трыснёг; бамбу́к (*як матэрыял для вырабу мэблі*); **sugar cane** цукро́вы трыснёг **3.** трысці́на, па́лка **4.** ро́зга; дубе́ц

**cane²** [keɪn] *v.* біць трысці́най/па́лкай (*у пакаранне*)

**cane furniture** [ˌkeɪn ˈfɜːnɪtʃə] *n.* пле́ценая мэ́бля

**cane sugar** [ˈkeɪnˌʃʊgə] *n.* трысняго́вы цу́кар

**canine¹** [ˈkeɪnaɪn] *n. fml* саба́ка

**canine²** [ˈkeɪnaɪn] *adj.* саба́чы; **a canine tooth** клык (*у чалавека*)

**canister** [ˈkænɪstə] *n.* **1.** бляша́нка з ве́чкам для ча́ю, ка́вы і г.д. **2.** бало́нчык; **a tear-gas canister** бало́нчык са слёзатачы́вым га́зам

**cannabis** [ˈkænəbɪs] *n.* **1.** *bot.* кано́плі **2.** нарко́тык з інды́йскіх канапе́ль/кано́пляў

**cannery** [ˈkænəri] *n.* кансе́рвавы заво́д

**cannibal** [ˈkænɪbl] *n.* **1.** каніба́л, людае́д **2.** *infml* чалавеканенаві́снік; злачы́нец; злачы́нка; ліхадзе́й; ліхадзе́йка **3.** жывёла, яка́я пая́дае асо́бін свайго́ ві́ду

**cannibalism** [ˈkænɪbəlɪzəm] *n.* каніба́лі́зм, людае́дства; пая́данне асо́бін свайго́ ві́ду

**cannon** [ˈkænən] *n.* гарма́та

**cannonball** [ˈkænənbɔːl] *n.* гарма́тнае ядро́

**cannon fodder** [ˈkænənˌfɒdə] *n.* гарма́тнае мя́са

**cannot** [ˈkænɒt] *v. адм. форма* → **can**

**canoe** [kəˈnuː] *n.* кано́э; чо́вен; байда́рка

**canoeist** [kəˈnuːɪst] *n.* весля́р на кано́э/байда́рцы

**canon** [ˈkænən] *n.* **1.** кано́н; царко́ўны зако́н **2.** афіцы́йны спіс кніг Бі́бліі **3.** *fml* пра́віла, станда́рт; **the canons of good taste** пра́вілы до́брага то́ну

**canopy** [ˈkænəpi] *n.* **1.** балдахі́н (*над ложкам*) **2.** по́лаг; наве́с; **a canopy of leaves** лісцвяны́ шацёр

**cant** [kænt] *n.* **1.** крывадушнасць; няшчы́рая гу́тарка **2.** жарго́н

**can't** [kɑːnt] *скар. ад* cannot

**canteen** [kænˈtiːn] *n.* стало́вая, буфе́т (*на заводзе, у навучальнай установе і да т.п.*)

**canter¹** [ˈkæntə] *n.* алю́р, лёгкі гало́п, кэ́нтар ♦ **win at a canter** лёгка дасягну́ць перамо́гі

**canter**[2] [ˈkæntə] *v.* éхаць алю́рам, лёгкім гало́пам (*на кані*)
**canvas** [ˈkænvəs] *n.* **1.** парусíна; палатнó; брызéнт **2.** карцíна (*алеем*) **3.** канвá (*для вышывання*) ♦ **under canvas** у пала́тцы; пад пáрусам
**canvass** [ˈkænvəs] *v.* **1.** збірáць галасы́ (*перад выбарамі*); агітавáць за кандыдáтаў; падлíчваць галасы́; збірáць ахвяраванні **2.** вынóсіць на абмеркавáнне (*план, ідэю і да т.п.*)
**canvasser** [ˈkænvəsə] *n.* лічы́льшчык галасóў
**canyon** [ˈkænjən] *n.* глыбóкая цяснíна, каньён
**cap**[1] [kæp] *n.* **1.** шáпка, кéпка; фурáжка; каўпáк; чапéц, каптýр **2.** *таксама* **Dutch cap** *infml* каўпачóк (*жаночы процізачаткавы сродак*) **3.** верхавíна; нáкрыўка; вéчка; **cap and gown** фóрма англíйскіх прафéсараў і студэ́нтаў ♦ **cap in hand** *BrE* пакóрліва, у рóлі прóсьбіта; **if the cap fits, wear it** ≅ на злóдзею шáпка гары́ць; **the cap fits!** ≅ не ў брывó, а ў вóка!; сказáў як звязáў; секанýў як крапівóю; **wear cap and bells** дýрня стрóіць
**cap**[2] [kæp] *v.* **1.** надзявáць шáпку; пакрывáць верх **2.** крыць; узя́ць верх; перагнáць, перасягнýць **3.** *sport* прыня́ць у склад/састáў камáнды ♦ **cap an anecdote** расказáць яшчэ́ больш смéшную гістóрыю
**capability** [ˌkeɪpəˈbɪləti] *n.* **1.** здóльнасць **2.** (*патэнцыйная*) магчы́масць
**capable** [ˈkeɪpəbl] *adj.* **1.** здóльны, умéлы, кéмлівы; **a capable pupil** здóльны вýчань **2.** **(of)** здáтны, схíльны (*да чаго-н.*), які́ паддаéцца (*чаму-н.*); **capable of bringing happiness** які́ мóжа прынéсці шчáсце; **capable of every wickedness** здóльны на любýю пóдласць; **capable of explanation** вытлумачáльны, дастýпны для разумéння; **capable of improvement** які́ паддаéцца паляпшэ́нню, удасканáленню; **capable of original ideas** здáтны да арыгінáльных ідэ́й; *Show what you are capable of.* Пакажы, на штó ты здатны.
**capably** [ˈkeɪpəbli] *adv.* умéла
**capacious** [kəˈpeɪʃəs] *adj. fml* ёмісты, умяшчáльны; прастóрны; **capacious pockets** ёмістыя кішэ́ні
**capacity** [kəˈpæsəti] *n.* **1.** здóльнасць; **a capacity for labour** працаздóльнасць; **the capacity to pay** плацежаздóльнасць; **defence capacity** абараназдóльнасць; **purchasing capacity** пакупнíцкая здóльнасць **2.** аб’ём, ёмістасць; умяшчáльнасць; **a mind of great capacity** багáты інтэлéкт; **filled to capacity** напóўнены да краёў, цáлкам запóўнены **3.** я́касць; пасáда; **in the capacity of/ in one's capacity as** у я́касці (*каго-н.*) **4.** *comput.* ёмістасць; разрáднасць; **storage capacity** ёмістасць пáмяці
**cape** [keɪp] *n.* мыс; **Cape Horn** мыс Горн; **Cape of Good Hope** мыс Дóбрай Надзéі
**caper**[1] [ˈkeɪpə] *n.* скачóк, *infml* калéнца; **cut a caper/cut capers** скакáць, дуры́цца; адпалíць штýчку
**caper**[2] [ˈkeɪpə] *v.* скакáць, дурэ́ць, дуры́цца, адпалíць штýчку
**capita** [ˈkæpɪtə] *n.* **: per capita** на душý насéльніцтва, на чалавéка
**capital**[1] [ˈkæpɪtl] *n.* **1.** сталíца; галóўны гóрад (*штата*) **2.** вялíкая лíтара; **with a capital letter** з вялíкай лíтары
**capital**[2] [ˈkæpɪtl] *n.* капітáл; **circulating/floating capital** абарóтны капітáл; **fixed/idle/share capital** аснóўны/мёртвы/акцыянéрны капітáл ♦ **make capital (out) of smth.** нажывáць капітáл на чым-н.
**capital**[3] [ˈkæpɪtl] *adj.* **1.** сталíчны, галóўны (*пра горад*); **a capital city** сталíца, галóўны гóрад (*штата*) **2.** вялíкі (*пра літару*); **a capital letter** вялíкая лíтара **3.** галóўны, сáмы вáжны, капітáльны; **a capital point** галóўнае/найважнéйшае пытáнне; **capital repairs** капітáльны рамóнт; **capital stock** аснóўны капітáл **4.** які́ карáецца смéрцю; **a capital offence** ця́жкае злачы́нства; **capital punishment** пакарáнне смéрцю
**capitalism** [ˈkæpɪtəlɪzəm] *n.* капіталíзм
**capitalist**[1] [ˈkæpɪtəlɪst] *n.* капіталíст
**capitalist**[2] [ˈkæpɪtəlɪst] *adj.* капіталісты́чны
**capitalize,** *BrE* **-ise** [ˈkæpɪtəlaɪz] *v.* **1.** пісáць з вялíкай лíтары **2.** ператварáць у капітáл, капіталізавáць **3.** **(on)** нажывáцца, нажывáць капітáл; выкарыстóўваць што-н. для ўлáснай вы́гады; **capitalize on an opponent's error** вы́карыстаць памы́лку працíўніка
**capricious** [kəˈprɪʃəs] *adj.* капры́злівы, змéнлівы, няўстóйлівы (*пра надвор'е*)
**Capricorn** [ˈkæprɪkɔːn] *n.* **1.** *astron.* Казярóг (*сузор'е*); **the tropic of Capricorn** трóпік Казярóга **2.** *astrol.* Казярóг (*знак задыяка*; *чалавек, які нарадзіўся пад гэтым знакам*)
**capsize** [kæpˈsaɪz] *v.* babперакýльваць; перакýльвацца (*у вадзе*)
**capsule** [ˈkæpsjuːl] *n.* **1.** кáпсула; абалóнка **2.** кабíна касманáўта, якáя аддзяля́ецца ад касмíчнага караблá
**captain** [ˈkæptɪn] *n.* **1.** капітáн **2.** *AmE* шэф паліцэ́йскага ўчáстка; стáршы, галóўны начáльнік; **captains of industry** прамыслóвыя магнáты

**caption** [ˈkæpʃn] *n.* **1.** загало́вак (*артыкула, главы*) **2.** по́дпіс (*пад карцінай, ілюстрацыяй, здымкам*) **3.** цітр, субці́тр

**captivate** [ˈkæptɪveɪt] *v.* палані́ць, зачаро́ўваць, заваро́жваць; чарава́ць, захапля́ць

**captivating** [ˈkæptɪveɪtɪŋ] *adj.* чаро́ўны, прыва́бны, абая́льны, захапля́льны; **a captivating smile** чаро́ўная ўсме́шка

**captive¹** [ˈkæptɪv] *n.* вя́зень, пало́нны, знявóлены

**captive²** [ˈkæptɪv] *adj.* **1.** пало́нны, паланёны **2.** зачарава́ны, заваро́жаны

**captivity** [kæpˈtɪvəti] *n.* пало́н, нявóля, жыццё ў нявóлі; *Some birds will not sing in captivity.* Некаторыя птушкі не спяваюць у клетцы.

**captor** [ˈkæptə] *n. fml* захо́пнік

**capture¹** [ˈkæptʃə] *n.* **1.** захо́п, паланéнне, узя́цце ў пало́н **2.** злаўле́нне, злоў (*злачынцы*) **3.** трафéй

**capture²** [ˈkæptʃə] *v.* **1.** палані́ць, узя́ць у пало́н, захапі́ць **2.** злаві́ць (*злачынцу*) **3.** завало́дацць, зачарава́ць, захапі́ць (*уяўленне, увагу і да т.п.*)

**car** [kɑː] *n.* **1.** (легкавы́) аўтамабі́ль; (аўта)машы́на **2.** *AmE* ваго́н; **a dining car** ваго́н-рэстара́н

**carafe** [kəˈræf] *n.* графі́н

**caramel** [ˈkærəmel] *n.* караме́ль

**carat** [ˈkærət] *n.* кара́т

**caravan** [ˈkærəvæn] *n.* **1.** карава́н **2.** чарада́ **3.** фурго́н, кібі́тка **4.** *BrE* жылы́ аўтапрычэ́п, домаўтапрычэ́п

**caraway** [ˈkærəweɪ] *n. bot.* кмен; **a caraway cake** кекс з кме́нам

**carbide** [ˈkɑːbaɪd] *n. chem.* карбі́д

**carbohydrate** [ˌkɑːbəʊˈhaɪdreɪt] *n. chem.* вугляво́д

**carbon** [ˈkɑːbən] *n.* **1.** вугляво́д **2.** ву́галь, графі́т **3.** а́ркуш капірава́льнай папе́ры, капі́рка; **a carbon copy** ко́пія праз капі́рку; дакла́дная ко́пія; *He is the carbon copy of his father.* Ён выліты бацька.

**carbon paper** [ˈkɑːbənˌpeɪpə] *n.* капірава́льная папе́ра

**carbuncle** [ˈkɑːbʌŋkl] *n.* **1.** карбу́нкул, ску́ла **2.** *AmE* архітэкту́рная недарэ́чнасць (*абразлівы для вока будынак*) **3.** карбу́нкул (*каштоўны камень*)

**carburetor** [ˌkɑːbjəˈretə] *AmE* = **carburettor**

**carburettor** [ˌkɑːbjəˈretə] *n.* карбюра́тар

**carcass, carcase** [ˈkɑːkəs] *n.* **1.** ту́ша (*жывёлы*) **2.** карка́с, касця́к, апо́рная канстру́кцыя **3.** *derog.* ту́ша (*пра тоўстага чалавека*)

**card** [kɑːd] *n.* **1.** ка́ртка, ка́ртачка; білéт; паштóўка; **an admission card** про́пуск; **a calling card** візі́тная ка́ртка; **a Christmas card** каля́дная віншава́льная паштóўка; **an identity card** пасвéдчанне асóбы; **an invitation card** запраша́льны білéт; **a membership card** чле́нскі білéт; **a work record card** працóўная кні́жка **2.** ка́рта (*ігральная*); **cards** ка́рты, ка́ртачная гульня́; **on the cards** *BrE* магчы́ма, напэ́ўна, верагóдна **3.** *joc.* чалавéк, тып, суб'éкт **4.** *comput.* пла́та ♦ **smb.'s best/main/strongest/trump/winning card** аснóўны, галóўны кóзыр; **get your cards** *BrE*, *infml* быць звóльненым/звóленым з паса́ды; **give smb. their cards** *BrE* звóльніць/звóліць каго́-н. з паса́ды; **have a card up your sleeve** мець запасны́ кóзыр; **hold (all) the cards** ≅ мець перава́гу; **hold/keep/play your cards close to your chest** не раскрыва́ць сваé ка́рты; **lay/put your cards on the table** раскры́ць сваé ка́рты

**cardboard** [ˈkɑːdbɔːd] *n.* кардóн (*цвёрдая папера*); **a cardboard binding** цвёрды пераплёт; **a cardboard box** кардóнка; **a cardboard cover** цвёрдая вóкладка (*кнігі*)

**card file** [ˈkɑːdfaɪl] *n.* картатэ́ка

**cardiac** [ˈkɑːdiæk] *adj. med.* сардэ́чны; **cardiac artheries** сардэ́чныя артэ́рыі; **a cardiac muscle** сардэ́чны му́скул

**cardigan** [ˈkɑːdɪgən] *n.* кардыга́н (*шарсцяны вязаны жакет з доўгімі рукавамі без каўняра на гузіках*)

**cardinal¹** [ˈkɑːdɪnl] *n.* **1.** кардына́л (*царкоўны сан*) **2.** кардына́л (*птушка*) **3.** я́рка-чырвóны/пунсóвы кóлер **4.** *math.* кóлькасны лічэ́бнік

**cardinal²** [ˈkɑːdɪnl] *adj.* **1.** аснóўны, галóўны, са́мы істóтны; кардына́льны; **cardinal arguments** галóўныя, аснóўныя дóвады; **the cardinal merit** галóўная заслу́га; **cardinal numbers** кóлькасныя лічэ́бнікі; **the four cardinal points** чаты́ры кіру́нкі свéту **2.** я́рка-чырвóны, пунсóвы **3.** кардына́льскі

**card swipe** [ˈkɑːdswaɪp] *n.* машы́на, якáя счы́твае інфарма́цыю з крэды́тнай або́ дэ́бетнай ка́рткі кліе́нта

**care¹** [keə] *n.* **1.** клóпат; апéка; нагля́д; **free from care** бесклапóтны, бестурбóтны **2.** ува́га, асцярóжнасць, асцярóжлівасць, асцярóга; абáчлівасць; *Glass, handle with care!* Шкло! Асцярожна!; **Take care!** Беражы́цеся/беражы́ся/беражы́(це) сябé/будзь(це) асцярóжны(я)!; да пабачэ́ння. **3.** дба́нне, руплі́васць, стара́нне ♦ **in the care of/in smb.'s care** пад нагля́дам/пад апéкаю/на ўтрыма́нні каго́-н.; **take care of** клапаці́цца (*пра*); **under the doctor's care** пад нагля́дам урача́

**care²** [keə] *v.* **1. (about, for)** клапаці́цца, ру́піцца, даглядáць **2. (about)** турбава́цца, хваляваць-

ца; дбаць; *Who cares?* Мяне гэта не турбуе/не цікавіць; *I don't care.* Мне ўсё роўна; *I don't care a damn/a straw/a button. infml* Мне на гэта напляваць. **3. (for)** любíць, падабáцца; рýпіцца, дбаць (*пра каго/што-н.*) **4.** мець жадáнне, жадáць, хацéць; *Would you care for a cup of tea?* Хочаш/хочаце кубак чаю? ♦ **I couldn't care less** *infml* мне на гэ́та напляваць

**career**[1] [kəˈrɪə] *n.* **1.** занятак; прафéсія **2.** жыццёвы шлях **3.** кар'éра; пóспех **4.** хýткі бег, кар'éр; **in full career** на ўсю моц, наўскáч, на ўсю сíлу, стрымгалóў

**career**[2] [kəˈrɪə] *v.* **1.** імчáцца, нéсціся на ўсю моц **2.** гнаць каня́

**carefree** [ˈkeəfriː] *adj.* бесклапóтны, бестурбóтны; шчаслíвы

**careful** [ˈkeəfəl] *adj.* **1. (of/with)** асцярóжны, пíльны **2. (about)** клапатлíвы **3.** дбáйны, старáнны, руплíвы ♦ **you can't be too careful** лíшняя асцярóжнасць не пашкóдзіць

**carefully** [ˈkeəfəli] *adv.* **1.** асцярóжна, пíльна, увáжна **2.** клапатлíва **3.** дбáйна, руплíва

**careless** [ˈkeələs] *adj.* **1.** нядбáйны; няўвáжны, няўвáжлівы **2. (of)** бесклапóтны, бестурбóтны; легкадýмны

**carelessly** [ˈkeələsli] *adv.* **1.** нядбáйна; няўвáжна, няўвáжліва **2. (of)** бесклапóтна, бестурбóтна; легкадýмна

**carelessness** [ˈkeələsnəs] *n.* **1.** нядбáйнасць; няўвáжлівасць **2.** бесклапóтнасць, бестурбóтнасць; легкадýмнасць

**carer** [ˈkeərə] *n.* сядзéлка (*тая, што даглядае хворага, састарэлага, інваліда, асабліва дома*)

**caress**[1] [kəˈres] *n.* лáска, пяшчóта

**caress**[2] [kəˈres] *v.* пéсціць, лáшчыць, мілавáць, галýбіць

**caret** [ˈkærət] *n.* паліграфíчны знак [^] устáўкі

**caretaker** [ˈkeəteɪkə] *n.* нагля́дчык; нагля́дчыца; выкóнваючы абавя́зкі (*часова*)

**cargo** [ˈkɑːgəʊ] *n.* (*pl.* **cargoes** *or* **cargos**) груз (*карабля, самалёта*); **inward/outward cargo** íмпартны/э́кспартны груз

**caricature** [ˈkærɪkətʃʊə] *n.* **1.** карыкатýра **2.** высмéйванне; адлюстравáнне, пакáз, перадáча ў карыкатýрным вы́глядзе; парóдыя, саты́ра

**caries** [ˈkeəriːz] *n. med.* кастаéда, кáрыес, карыёз

**carious** [ˈke(ə)riəs] *adj. med.* кáрыесны, карыёзны

**carnage** [ˈkɑːnɪdʒ] *n.* крывáвая бóйня, разня́

**carnation** [kɑːˈneɪʃn] *n.* **1.** *bot.* гваздзíк **2.** я́ркаружóвы абó чырвóны кóлер

**carnival** [ˈkɑːnɪvl] *n.* карнавáл; мáсленіца; фестывáль

**carnivore** [ˈkɑːnɪvɔː] *n.* **1.** *zool.* драпéжнік, драпéжная жывёліна **2.** *bot.* насякомаéдная раслíна

**carnivorous** [kɑːˈnɪvərəs] *adj.* **1.** *zool.* драпéжны **2.** *bot.* насякомаéдны

**carol**[1] [ˈkærəl] *n.* **1.** вясёлая каля́дная пéсня **2.** святóчны гімн; **Christmas carols** каля́дкі

**carol**[2] [ˈkærəl] *v.* **1.** апявáць, усхваля́ць, услаўля́ць **2.** калядавáць

**caroller** [ˈkærələ] *n.* каля́днік, калядóўшчык (*той, хто пяе калядную песню*; *той, хто ўслаўляе, усхваляе*)

**carolling** [ˈkærəlɪŋ] *n.* шчадравáнне

**carousal** [kəˈraʊzl] *n.* шýмная папóйка, вы́піўка

**carouse** [kəˈraʊz] *v.* балявáць; банкетавáць; п'я́нстваваць

**carousel** [ˌkærəˈsel, ˌkærəˈzel] *n.* = **carrousel**

**carp**[1] [kɑːp] *n. zool.* карп

**carp**[2] [kɑːp] *v.* **1. (at)** прыдзірáцца, чапля́цца; незычлíва/нядобразычлíва/зласлíва крытыкавáць **2.** бурчáць

**carpenter** [ˈkɑːpəntə] *n.* цясля́р; сталя́р; **a carpenter's bench** варштáт

**carpentry** [ˈkɑːpəntri] *n.* цясля́рства, цясля́рскае рамяствó; сталя́рства

**carpet** [ˈkɑːpɪt] *n.* дывáн; кілíм; **a magic carpet** кілíм-самалёт; **a runner carpet** дыванóвая дарóжка; **roll out the red carpet for smb.** прымáць кагó-н. з пашáнай ♦ **be/get called on the carpet** *AmE, infml* атрымáць наганя́й

**carpetbagger** [ˈkɑːpɪtˌbægə] *n.* палíты́чны авантуры́ст

**carriage** [ˈkærɪdʒ] *n.* **1.** экіпáж; карэ́та **2.** пасажы́рскі вагóн **3.** цялéжка, ваганéтка **4.** карэ́тка (*пішучай машынкі*) **5.** перавóзка, транспарцірóўка, транспартавáнне **6.** пастáва **7.** *comput.* карэ́тка

**carrier** [ˈkæriə] *n.* **1.** насíльшчык; разнóсчык; разнóсчыца; пасы́льны; кур'éр **2.** *AmE* паштальён **3.** трáнспартная кантóра; трáнспартнае агéнцтва **4.** *naut.* авіянóсец **5.** багáжнік (*матацыкла*) **6.** *med.* бацыланóсьбіт; бацыланóсьбітка

**carrier bag** [ˈkæriəˌbæg] *n. BrE* пакéт для пакýпак (*папяровы або пластыкавы*)

**carrier pigeon** [ˈkæriəˌpɪdʒɪn] *n.* паштóвы гóлуб

**carrot** [ˈkærət] *n.* **1.** мóрква **2.** *infml* абяцáная ўзнагарóда ♦ **the carrot and (the) stick** бізýн і пéрнік; **hold out/offer a carrot to smb.** спакушáць, прапанóўваючы ўзнагарóду/прывілéі

**carrousel** [ˌkærəˈsel, ˌkærəˈzel] *n.* карусéль

**carry**[1] [ˈkæri] *n. comput.* перанóс; **a carry flag** прымéта перанóсу

**carry**[2] [ˈkæri] *v.* **1.** насíць, нéсці (*на сабе, з сабой*) **2.** вазíць, вéзці **3.** перанóсіць **4.** прынóсіць **5.** змяшчáць (*у сабе*) **6.** правóдзіць,

прымáць (*закон, рэзалюцыю*) **7.** *AmE* гандляваць (*чым-н.*) ♦ **carry weight** мець аўтарытэ́т, уплы́ў; **carry the day** атры́млiваць/заваёўваць перамо́гу; дабiвáцца перамо́гi

**carry away** [ˌkæriəˈweɪ] *phr.v.* ахо́плiваць, апано́ўваць (*пра пачуццi*); захапля́ць, зачаро́ўваць

**carry off** [ˌkæriˈɒf] *phr.v.* **1.** выйгравáць **2.** вытры́млiваць

**carry on** [ˌkæriˈɒn] *phr.v.* працягваць

**carry out** [ˌkæriˈaʊt] *phr.v.* выко́нваць, здзяйсня́ць

**cart**[1] [kɑːt] *n.* **1.** двухко́лка; воз, калёсы, драбíны **2.** каля́ска; тáчка ♦ **put the cart before the horse** стáвiць калёсы напéрадзе каня́, рабíць (*што-н.*) шы́варат-навы́варат

**cart**[2] [kɑːt] *v.* éхаць/вéзцi на во́зе

**carthorse** [ˈkɑːthɔːs] *n.* ламавы́ конь, ламавíк

**cartilage** [ˈkɑːtɪlɪdʒ] *n. anat.* храсто́к

**carton** [ˈkɑːtn] *n.* кардо́нная скры́нка; кардо́нка; пакéцiк (*малака, соку i да т.п.*)

**cartoon** [kɑːˈtuːn] *n.* **1.** карыкатýра; малю́нак камíчнага/сатыры́чнага змéсту **2.** ко́мiкс; сéрыя гумарысты́чных малю́нкаў **3.** мультыплiкацы́йны фiльм **4.** эскíз

**cartridge** [ˈkɑːtrɪdʒ] *n.* **1.** патро́н **2.** кáртрыдж **3.** *comput.* касéта, кáртрыдж

**cartridge belt** [ˈkɑːtrɪdʒˌbelt] *n.* патрантáш; кулямётная стýжка

**cartridge case** [ˈkɑːtrɪdʒˌkeɪs] *n.* патро́нная гíльза

**cartridge paper** [ˈkɑːtrɪdʒˌpeɪpə] *n.* папéра для малявáння, эскíзаў

**cartwheel** [ˈkɑːtwiːl] *n.* куля́нне цéраз/праз галавý

**carve** [kɑːv] *v.* **1.** рэ́заць, вырэ́зваць, вырaзáць (*па дрэве, косцi i да т.п.*); высякáць (*з каменю*) **2.** рэ́заць (*смажанiну*) кавáлачкамi ♦ **carved in stone** якí нéльга змянíць

**cascade**[1] [kæˈskeɪd] *n.* каскáд

**cascade**[2] [kæˈskeɪd] *v.* пáдаць каскáдам

**case**[1] [keɪs] *n.* **1.** вы́падак; абстáвiны; **an individual case** адзíнкавы вы́падак; **a special case** асаблíвы вы́падак **2.** до́вад, аргумéнт; **have a case** мець што сказáць у сваё апраўдáнне; **the case (for, against)** аргумéнт (на кары́сць, сýпраць) **3.** (*судовая*) спрáва; **dismiss the case** спынíць спрáву (*у судзе*); **hush up the case** замя́ць спрáву **4.** хво́ры, пацыéнт; той, хто знахо́дзiцца пад нагля́дам (*урача, выхавальнiкаў, палiцыi i да т.п.*) **5.** *ling.* склон ♦ **as the case may be** у залéжнасцi ад абстáвiн; **as the case stands** пры дáдзеных абстáвiнах; **in any case** ва ўся́кiм рáзе/вы́падку; пры любы́х абстáвiнах; **in case (of)** у вы́падку, калí; калí здáрыцца так, што; **in no case** нi ў я́кiм рáзе; **in such a case** у такíм рáзе/вы́падку

**case**[2] [keɪs] *n.* **1.** скры́нка **2.** чамадáн **3.** кейс

**case history** [ˌkeɪsˈhɪstəri] *n.* гiсто́рыя хваро́бы

**cash**[1] [kæʃ] *n.* **1.** ная́ўныя гро́шы, гато́ўка; **cash and carry store** крáма, якáя гандлю́е за ная́ўныя гро́шы; **cash on delivery** накладны́ плацéж; **cash register** кáсавы апарáт, кáса; **pay by/in cash** плацíць ная́ўнымi грашы́ма; **sell for cash** прадавáць за ная́ўныя гро́шы **2.** *infml* гро́шы; **be short/out of cash** не мець гро́шай

**cash**[2] [kæʃ] *v.* ператварáць у ная́ўныя гро́шы; **cash a cheque** атрымáць гро́шы па чэ́ку ♦ **cash in your chips** *infml* памéрцi

**cash in** [ˌkæʃˈɪn] *phr.v.* нажывáцца (*на чым-н.*); выкарысто́ўваць (*што-н.*)

**cashier** [kæˈʃɪə] *n.* касíр; касíрка

**cashless** [ˈkæʃləs] *adj.* безная́ўны (*якi выконваецца без наяўных грошай праз крэдытныя або дэбетныя карткi*), безграшо́вы; **cashless society** грамáдства, у якíм кýпля i про́даж тавáраў i паслýг ажыццяўля́ецца шля́хам безная́ўных/безграшо́вых разлíкаў

**cask** [kɑːsk] *n.* бо́чка; бо́чачка

**casket** [ˈkɑːskɪt] *n.* **1.** шкатýлка; куфэ́рак; скры́начка **2.** *AmE* трунá, дамавíна

**casserole** [ˈkæsərəʊl] *n.* **1.** кастрýлька, ро́ндаль (*дзе тушыцца i падаецца на стол ежа, асаблiва мяса i гароднiна*) **2.** прыгатавáная ў кастрýльцы éжа (*асаблiва мяса i гароднiна*)

**cassette** [kəˈset] *n.* касéта; **a cassette recorder** касéтны магнiтафо́н

**cast**[1] [kɑːst] *n.* **1.** размеркавáнне ро́ляў; склад, састáў выканáўцаў **2.** фо́рма для лiцця́ (*металу*) **3.** склад (*розуму*) **4.** кiдо́к **5.** гiпс

**cast**[2] [kɑːst] *v.* **(cast) 1.** кíдаць, кíнуць; гля́нуць, зiрнýць; **cast a glance** кíнуць по́зiрк, **cast anchor** кíнуць я́кар **2.** размярко́ўваць (*ролi*) **3. : cast a vote for/against** прагаласавáць за/ сýпраць ♦ **be cast down** *lit.* быць у прыгнéчаным/засмýчаным стáне; **cast lots** кíнуць жэ́рабя; **the die is cast** жэ́рабя кíнута, вы́бар зро́блены

**cast about** [ˌkɑːstəˈbaʊt] *phr.v.* абдýмваць, варушы́ць круцíць (*мазгáмi*)

**cast aside** [ˌkɑːstəˈsaɪd] *phr.v.* пакiдáць; адкладáць, часо́ва адмаўля́цца (ад чаго́-н.)

**cast away** [ˌkɑːstəˈweɪ] *phr.v.* **1.** выкíдваць **2.** пакíнуць, закíнуць **3.** пацярпéць караблекрушэ́нне

**cast down** [ˌkɑːstˈdaʊn] *phr.v.* **1.** скíнуць, звéргнуць, зры́нуць **2.** апускáць (*вочы*)

**cast off** [ˌkɑːstˈɒf] *phr.v.* **1.** пакiдáць (каго́-н./ што-н.) **2.** скiдáць, скíдваць; мяня́ць (*скуру*) **3.** зако́нчыць апо́шнi радо́к у вязáннi **4.** адлiвáць (*метал*)

**cast on** [ˌkɑːstˈɒn] *phr.v.* набіра́ць пе́тлі (*у вязанні пруткамі*)

**cast out** [ˌkɑːstˈaʊt] *phr.v.* выганя́ць; высяля́ць; выкіда́ць

**castanets** [ˌkæstəˈnets] *n. pl.* кастанье́ты

**castaway** [ˈkɑːstəweɪ] *n.* **1.** ахвя́ра караблекрушэ́ння (*той, хто пацярпеў караблекрушэнне і даплыў да бязлюднага вострава*) **2.** занядба́ны, адры́нуты чалаве́к; выгна́ннік; выгна́нніца

**caster** [ˈkɑːstə] *AmE* = **castor**

**cast iron**[1] [ˌkɑːstˈaɪən] *n.* чыгу́н

**cast-iron**[2] [ˌkɑːstˈaɪən] *adj.* **1.** чыгу́нны **2.** цвёрды; мо́цны; трыва́лы; непахі́сны; нязло́мны

**castle** [ˈkɑːsl] *n.* **1.** за́мак **2.** тура́ (*шахматная*) ♦ **an Englishman's home is his castle** дом англіча́ніна – яго́ крэ́пасць; **castles in the air**/**castles in Spain** няздзе́йсныя/нездзяйсня́льныя/нязбы́тныя ма́ры; паве́траныя за́мкі

**castor** [ˈkɑːstə] *n. BrE* **1.** ко́льца, ро́лік (*на ножках мэблі*) **2.** пе́рачніца; сальні́ца; **a set of castors** судо́к (*для прыправаў*)

**castor oil** [ˌkɑːstərˈɔɪl] *n.* рыцы́на

**castor sugar** [ˌkɑːstəˈʃʊgə] *n.* цукро́вая пу́дра

**castrate** [kæˈstreɪt] *v.* кастры́раваць, лягча́ць, паклада́ць

**castration** [kæˈstreɪʃn] *n.* кастра́цыя, лягча́нне, паклада́нне

**casual** [ˈkæʒuəl] *adj.* **1.** выпадко́вы; часо́вы; **earn a living by casual labour** зарабля́ць на жыццё выпадко́вай пра́цай; **a casual labourer** падзёншчык **2.** нядба́йны, неаха́йны; **be casual towards one's dress** не зварта́ць асаблі́вай ува́гі на сваю во́пратку **3.** несур'ёзны; павярхо́ўны; **a casual glance** мімалётны по́зірк **4.** ненадзе́йны; **a casual person** ненадзе́йны чалаве́к **5.** непастая́нны

**casually** [ˈkæʒuəli] *adv.* **1.** выпадко́ва; мімахо́дам; за адны́м ра́зам **2.** ненаўмы́сна **3.** нядба́йна, няўва́жна, няўва́жліва; павярхо́ўна

**casualty** [ˈkæʒuəlti] *n.* **1.** ахвя́ра няшча́снага вы́падку **2.** *mil.* той, хто вы́быў са стро́ю **3.** *pl.* **casualties** *mil.* стра́ты ў жыво́й сі́ле; ахвя́ры; уро́н; **suffer heavy casualties** не́сці ця́жкія стра́ты

**cat** [kæt] *n.* кот; ко́шка, ко́тка ♦ **be the cat's whiskers/pyjamas** *infml* быць высо́кай ду́мкі (*аб кім/чым-н.*); **cat-and-dog life** *infml* ве́чныя сва́ркі; жыць як кот з саба́кам; **fat cats** фіна́нсавыя тузы́; **let the cat out of the bag** *infml* прагавары́цца, разбалбата́ць сакрэ́т; **like a cat on hot bricks** ≅ як вуж на патэ́льні; як на іго́лках; як у пры́саку; як чорт пе́рад хма́рай; **like a cat that's got the cream** *BrE* ве́льмі задаво́лены сабо́ю; **rain cats and dogs** *infml* ліць як з вядра́/цэ́бра (*пра дождж*)

**catalog** [ˈkætəlɒg] *AmE* = **catalogue**

**catalogue** [ˈkætəlɒg] *n.* катало́г

**catalyst** [ˈkætəlɪst] *n. chem.* каталіза́тар (*таксама перан.*)

**catapult** [ˈkætəpʌlt] *n.* **1.** рага́тка **2.** катапу́льта; **a catapult seat** сядзе́нне, яко́е катапульту́ецца з лята́льнага апара́та

**catastrophe** [kəˈtæstrəfi] *n.* катастро́фа

**catastrophic** [ˌkætəˈstrɒfɪk] *adj.* катастрафі́чны

**catch**[1] [kætʃ] *n.* **1.** злаўле́нне; лаўле́нне; злоў **2.** уло́ў (*рыбы*) **3.** па́стка; падма́н; падвэ́сць, хі́трасць; **that's the catch** у тым вось і ўся хі́трасць; **there must be a catch somewhere** тут што́сьці не так; тут ёсць не́йкая падвэ́сць **4.** вы́гадная здабы́ча; **no catch**/**not much of a catch** незайздро́сны набы́так; грош цана́ **5.** за́саўка; зава́ла; кля́мка; шпінгале́т **6.** **:** **with a catch in her voice** перары́вістым го́ласам **7.** *sport* кэч ♦ **(a) catch 22** «па́стка-22» (*парадаксальная сітуацыя, з якой няма выйсця*); «зачарава́нае ко́ла»

**catch**[2] [kætʃ] *v.* **(caught) 1.** лаві́ць, даганя́ць **2.** паспе́ць; **catch a train** паспе́ць на цягні́к **3.** улаві́ць (*сэнс, матыў і да т.п.*); зразуме́ць **4.** **:** *He caught his breath.* У яго перахапіла дыханне. ♦ **catch a cold** прастудзі́цца; **catch fire** загарэ́цца; **catch hold of smth.** ухапі́цца за што-н.; **catch it** атрыма́ць наганя́й; **catch sight**/**a glimpse of** уба́чыць, угле́дзець на імгне́нне; **catch smb.'s attention**/**eye** прыця́гваць чыю́-н. ува́гу; **catch up on sleep** адаспа́цца; **catch up with smb.** даганя́ць, дагна́ць каго́-н.

**catch on** [ˌkætʃˈɒn] *phr.v. infml* стаць мо́дным; прыві́цца

**catching** [ˈkætʃɪŋ] *adj.* **1.** зара́зны; зара́злівы **2.** захапля́льны, ціка́вы

**catchphrase** [ˈkætʃfreɪz] *n.* кі́дкая фра́за, ло́зунг

**catchy** [ˈkætʃi] *adj.* **1.** лёгказапаміна́льны; **a catchy song** пе́сня, яку́ю лёгка запо́мніць **2.** кі́дкі; які́ прыця́гвае ўва́гу

**category** [ˈkætəgəri] *n.* катэго́рыя; клас; разра́д

**cater** [ˈkeɪtə] *v.* **1.** **(for)** пастаўля́ць праві́зію; забяспе́чваць харчава́ннем; абслуго́ўваць; **cater for dinners**/**receptions** абслуго́ўваць абе́ды/прыёмы **2.** **(to)** дагаджа́ць; **cater to low tastes** патура́ць дрэ́ннаму гу́сту

**caterer** [ˈkeɪtərə] *n.* **1.** пастаўшчы́к праві́зіі **2.** гаспада́р; зага́дчык, адміністра́тар (*гатэля, рэстарана і да т.п.*)

**caterpillar** [ˈkætəpɪlə] *n. zool.* ву́сень

**cathedral** [kəˈθiːdrəl] *n.* сабо́р; кафедра́льны сабо́р; **St. Paul's Cathedral** сабо́р св. Па́ўла

**Catherine wheel** [ˈkæθrɪnˌwiːl] *n.* **1.** агнявóе кóла, феервéрк **2.** *archit.* крýглае акнó **3.** кулянне «кóлам»
**Catholic** [ˈkæθlɪk] *n.* каталíк, катóлік; каталíчка
**catholic** [ˈkæθlɪk] *adj.* шырóкі; разнастáйны; усеабдымны, усебакóвы; экуменíчны; **a man of catholic taste** чалавéк з разнастáйнымі інтарэ́самі
**catkin** [ˈkætkɪn] *n. bot.* каташóк, кóцік
**catnap** [ˈkætnæp] *n.* карóткі сон
**cattle** [ˈkætl] *n.* буйнáя рагáтая жывёла; валы́, быкí і карóвы; **twenty head of cattle** двáццаць галóў буйнóй рагáтай жывёлы; *The cattle are in the shed.* Каровы ў хляве.
**Caucasian**[1] [kɒˈkeɪziən, kɒˈkeɪʒn] *n.* каўкáзец; каўкáзка; **the Caucasians** каўкáзцы
**Caucasian**[2] [kɒˈkeɪziən, kɒˈkeɪʒn] *adj.* каўкáзскі
**caught** [kɔːt] *past, p.p.* → **catch**[2]
**cauliflower** [ˈkɒliflaʊə] *n. bot.* цвятнáя капýста
**causative** [ˈkɔːzətɪv] *adj.* **1.** прычы́нны, каўзáльны **2.** *ling.* каўзаты́ўны
**cause**[1] [kɔːz] *n.* **1.** прычы́на; падстáва; нагóда; **the cause of war/fire** прычы́на вайны́/пажáру; **without good cause** без увáжлівай прычы́ны; *There is no cause for anxiety.* Няма ніякай падставы для хвалявання; *You have no cause for complaint/ no cause to complain.* У вас/у цябе няма падставы для скаргі/для таго, каб скардзіцца. **2.** спрáва; **fight for the cause of justice** змагáцца за справядлíвую спрáву; **make common cause with smb.** станавíцца на чый-н. бок, далучáцца да кагó-н. для агýльнае спрáвы
**cause**[2] [kɔːz] *v.* **1.** прычынять **2.** выклікáць, з'яўлýцца прычы́най; *What caused his death?* Ад чаго ён памёр?; Што з'явілася прычынай яго смерці?; *What causes the tides?* Што выклікае прылівы?; *This has caused us much anxiety.* Гэта прынесла нам шмат турбот. **3.** прымушáць
**caustic** [ˈkɔːstɪk] *adj.* **1.** *chem.* каўсты́чны **2.** éдкі; з'éдлівы
**caution**[1] [ˈkɔːʃn] *n.* **1.** асцярóжнасць, асцярóга, абáчлівасць **2.** перасцярóга; папярэ́джанне; **give a caution (to)** зрабíць папярэ́джанне ♦ **cast/throw caution to the wind(s)** пачáць рызыкавáць
**caution**[2] [ˈkɔːʃn] *v.* папярэ́джваць; перасцерагáць
**cautionary** [ˈkɔːʃənəri] *adj.* папераджáльны
**cautious** [ˈkɔːʃəs] *adj.* асцярóжны, абáчлівы
**cavalier** [ˌkævəˈlɪə] *adj.* бесцырымóнны; фанабэ́рысты, ганары́сты, напы́шлівы; пагáрдлівы; **cavalier manners** развя́зныя манéры/ пагóрдзіны; **a cavalier tone** пагáрдлівы тон; **cavalier treatment of smb.** бесцырымóннае абыхóджанне з кім-н.
**cavalry** [ˈkævəlri] *n.* кавалéрыя, кóнніца
**cave** [keɪv] *n.* пячóра; пóласць; упáдзіна; я́міна
**cave in** [ˌkeɪvˈɪn] *phr.v.* **1.** асядáць, ападáць, апускáцца **2.** уступáць, адступáць, здавáцца
**cavern** [ˈkævən] *n.* вялíкая пячóра
**caviar(e)** [ˈkæviɑː] *n.* ікрá (*рыбная*)
**cavity** [ˈkævəti] *n.* **1.** упáдзіна; пóласць **2.** *med.* пóласць, кавéрна; **a cavity in a tooth** дуплó ў зýбе
**caw**[1] [kɔː] *n.* кáрканне (*пра птушак*)
**caw**[2] [kɔː] *v.* кáркаць (*пра птушак*)
**CD** [ˌsiːˈdiː] *n.* (*скар. ад* **compact disc**) кампáкт-дыск
**CD-player** [ˌsiːdiːˈpleɪə] *n.* прайгравáльнік кампáкт-ды́скаў
**CD-ROM** [ˌsiːdiːˈrɒm] *n.* (*скар. ад* **compact disc read-only memory**) кампáкт-дыск для захóўвання дáных камп'ютара
**cease** [siːs] *v. fml* спыня́ць, спынíць; **cease to exist** перастáць існавáць; **cease making smth.** спынíць вы́пуск чагó-н.; *Cease fire!* Спыніць страляніну!
**ceaseless** [ˈsiːsləs] *adj. fml* няспы́нны, безупы́нны, бесперапы́нны, бесперастáнны
**cedar** [ˈsiːdə] *n. bot.* кедр
**ceiling** [ˈsiːlɪŋ] *n.* **1.** столь **2.** найбóльшая вышыня́; пік; мяжá (*цэнаў, заробкаў*)
**celebrate** [ˈselɪbreɪt] *v.* **1.** святкавáць; урачы́ста адзначáць **2.** праслаўля́ць, услаўля́ць; апявáць **3.** служы́ць (*абедню*); адпраўля́ць царкóўную слýжбу, вéсці набажэ́нства
**celebrated** [ˈselɪbreɪtɪd] *adj.* дóбра вядóмы, знáны; славýты, слы́нны; праслáўлены; услáўлены; *She is celebrated for her beauty.* Яна праславілася сваёй прыгажосцю.
**celebration** [ˌselɪˈbreɪʃn] *n.* **1.** святкавáнне **2.** урачы́стасць; свя́та **3.** услаўлéнне, ушанавáнне **4.** царкóўная слýжба, набажэ́нства
**celebrity** [səˈlebrəti] *n.* **1.** славýты/выдáтны/ вядóмы чалавéк **2.** славýтасць, шырóкая папуля́рнасць
**celery** [ˈseləri] *n. bot.* сельдэрэ́й
**celestial** [səˈlestial] *adj.* **1.** *fml.* нябéсны; **celestial bodies** нябéсныя цéлы **2.** надзвычáйны, чарóўны, цудóўны
**celibacy** [ˈselɪbəsi] *n.* цэлібáт, бясшлю́бнасць; **a vow of celibacy** абяцáнне/зарóк бясшлю́бнасці
**cell** [sel] *n.* **1.** турэ́мная кáмера **2.** кéлля **3.** аддзéл, сéкцыя **4.** *biol.* клéтка **5.** *electr.* элемéнт **6.** *comput.* ячэ́я

**cellar** [ˈselə] *n.* **1.** падва́л, сутарэ́нне **2.** склеп, по́граб; **a wine cellar** ві́нны склеп

**cellist** [ˈtʃelɪst] *n.* віяланчэлі́ст; віяланчэлі́стка

**cello** [ˈtʃeləʊ] *n.* віяланчэ́ль

**cellophane** [ˈseləfeɪn] *n.* цэлафа́н

**cellphone** [ˈselfəʊn] *n.* со́тавы тэлефо́н, мабі́льны тэлефо́н; мабі́льнік

**cellular** [ˈseljələ] *adj.* **1.** клетачны, які́ складáецца з клéтак; **cellular tissue** *biol.*, *chem.* клятча́тка **2.** ячэ́істы, сотападо́бны

**cellular phone** [ˌseljələˈfəʊn] *n.* **= cellphone**

**celluloid** [ˈseljulɔɪd] *n.* цэлуло́ід

**cellulose** [ˈseljuləʊs] *n.* цэлюло́за

**Celsius** [ˈselsiəs] *n.* шкала́ тэрмо́метра Цэ́льсія

**Celt** [kelt] *n.* кельт

**Celtic**[1] [ˈkeltɪk] *n.* ке́льцкая мо́ўная гру́па

**Celtic**[2] [ˈkeltɪk] *adj.* ке́льцкі

**cement**[1] [sɪˈment] *n.* **1.** цэме́нт **2.** вя́зкае рэ́чыва, яко́е цэменту́е **3.** су́вязь, злуча́льная сі́ла

**cement**[2] [sɪˈment] *v.* цэментава́ць, замацо́ўваць (*таксама перан.*)

**cemetery** [ˈsemətri] *n.* мо́гілкі, мо́гільнік

**censor** [ˈsensə] *n.* цэ́нзар

**censorship** [ˈsensəʃɪp] *n.* цэнзу́ра

**censure** [ˈsenʃə] *n. fml* асуджэ́нне, ганьбава́нне; **a vote of censure** во́тум недаве́ру

**census** [ˈsensəs] *n.* пе́рапіс; **take a census** праве́сці пе́рапіс (*насельніцтва*)

**cent** [sent] *n.* **1.** цэнт (*0,01 долара*) **2. : per cent** працэ́нт, адсо́так

**cent.** (*пісьмовае скар. ад* **century**) стаго́ддзе

**centaur** [ˈsentɔː(r)] *n. myth.* кента́ўр

**centenary** [senˈtiːnəri] *n.* **1.** стаго́ддзе, век **2.** стогадо́вы юбіле́й, со́тыя ўго́дкі

**center** [ˈsentə] *AmE* = **centre**

**centigrade** [ˈsentɪgreɪd] *adj.* стогра́дусны; падзе́лены на сто гра́дусаў; **a centigrade scale** стогра́дусная шкала́, шкала́ Цэ́льсія

**centimeter** [ˈsentɪmiːtə] *AmE* = **centimetre**

**centimetre** [ˈsentɪmiːtə] *n.* сантыме́тр

**centipede** [ˈsentɪpiːd] *n. zool.* сараканó́жка

**central** [ˈsentrəl] *adj.* **1.** цэнтра́льны; **central heating** цэнтра́льнае ацяпле́нне **2.** гало́ўны; **the central figures in a novel** гало́ўныя дзе́ючыя асо́бы рама́на, геро́і рама́на

**centralize,** *BrE* **-ise** [ˈsentrəlaɪz] *v.* цэнтралізава́ць

**centrally** [ˈsentrəli] *adv.* **: centrally situated** разме́шчаны ў цэ́нтры (*горада*); **centrally guided** які́ кіру́ецца з цэ́нтра; **a centrally directed system** цэнтралізава́ная сістэ́ма

**centre** [ˈsentə] *n.* **1.** цэнтр; сярэ́дзіна; **the centre of attraction** цэнтр прыцягне́ння; **the centre of a circle** цэнтр кру́га; **the centre of gravity** цэнтр цяжа́ру; **the shopping centre (of a town)** гандлёвы цэнтр (*горада*); **be the centre of attention/interest** быць у цэ́нтры ўва́гі **2.** *sport* цэнтравы́

**centre forward** [ˌsentəˈfɔːwəd] *n. sport* цэнтра́льны нападаю́чы (*у футболе, хакеі*)

**centrifugal** [ˌsentrɪˈfjuːgl] *adj. phys.* цэнтрабе́жны; **centrifugal force** цэнтрабе́жная сі́ла

**centrifuge** [ˈsentrɪfjuːdʒ] *n. tech.* цэнтрыфу́га

**centripetal** [senˈtrɪpətəl] *adj. tech.* цэнтраімклі́вы; **centripetal force** цэнтраімклі́вая сі́ла

**centrist**[1] [ˈsentrɪst] *n.* цэнтры́ст

**centrist**[2] [ˈsentrɪst] *adj.* цэнтры́сцкі

**century** [ˈsentʃəri] *n.* **1.** сто гадо́ў, век **2.** стаго́ддзе; **in the 20$^{th}$ century** у дваццатым стаго́ддзі

**ceramic** [səˈræmɪk] *adj.* кера́мі́чны, ганча́рны

**ceramics** [səˈræmɪks] *n. pl.* **1.** кера́міка, ганча́рства, ганча́рная вытво́рчасць, ганча́рнае майстэ́рства **2.** кера́міка, ганча́рныя вы́рабы

**cereal** [ˈsɪəriəl] *n.* **1.** *bot.* збо́жжавы злак **2.** збо́жжа, збажына́ **3.** кру́пы **4.** стра́ва з круп (*звыч. як снеданне*)

**cerebellum** [ˌserəˈbeləm] *n.* (*pl.* **cerebellums** *or* **cerebella**) *anat.* мазжачо́к (*аддзел мозга*)

**cerebral** [ˈserəbrəl] *adj. anat.* мазгавы́; **cerebral hemispheres** мазгавы́я паўша́р'і; **a cerebral haemorrhage** кровазліццё ў мозг

**ceremonial** [ˌserəˈməʊniəl] *adj.* **1.** фарма́льны; цырыманія́льны **2.** абра́давы, рытуа́льны

**ceremonious** [ˌserəˈməʊniəs] *adj. fml* **1.** цырымо́нны; ва́жны, напы́шлівы, надзьму́ты **2.** цырыманія́льны

**ceremony** [ˈserəməni] *n.* **1.** цырымо́нія; **a wedding ceremony** шлю́бная цырымо́нія; **without ceremony** папро́сту, про́ста, без цырымо́ній **2.** цырыманія́л; этыке́т

**certain** [ˈsɜːtn] *adj.* **1. : be certain (of/about)** быць упэ́ўненым, не мець сумне́нняў; *Are you certain of/about that?* Вы/ты ў гэтым упэўнены?; *He is certain to come.* Ён абавязкова прыйдзе. **2.** пэ́ўны; акрэ́слены; вы́значаны; **for a certain reason** па пэ́ўнай прычы́не; **on certain conditions** пры пэ́ўных абста́вінах; **to a certain extent** у пэ́ўнай ступе́ні **3.** некато́ры, не́йкі; **a certain person** адзі́н, не́йкі чалаве́к; *There was a certain coldness in her attitude towards me.* У яе адносінах да мяне адчувалася нейкая халоднасць. ♦ **for certain** напэ́ўна

**certainly** [ˈsɜːtnli] *adv.* вядо́ма, безумо́ўна, бясспрэ́чна, несумне́нна

**certainty** [ˈsɜːtnti] *n.* **1.** упэ́ўненасць, пераканá́насць **2.** бясспрэ́чны факт

**certificate** [səˈtɪfɪkət] *n.* пасвéдчанне; сертыфікáт; **a birth certificate** пасвéдчанне аб нараджэ́нні, мéтрыка; **a health certificate** давéдка аб стáне здарóўя; **a marriage certificate** пасвéдчанне аб шлю́бе; **Certificate of Secondary Education** *BrE* сертыфікáт аб сярэ́дняй адукáцыі

**certified** [ˈsɜːtɪfaɪd] *adj.* **1.** гарантавáны **2.** завéраны **3.** дыпламавáны

**certify** [ˈsɜːtɪfaɪ] *v.* **1.** свéдчыць, пасвéдчыць, засвéдчыць; завéрыць; пацвéрдзіць, сцвéрдзіць; **this is to certify** гэ́тым свéдчыцца; *I certify this as/to be a true copy.* З арыгіналам згодны./Арыгіналу адпавядае. **2.** ручáцца; **certify to smb.'s character** ручáцца за кагó-н.

**cervical** [ˈsɜːvɪkl] *adj. anat.* шы́йны; **cervical smear** мазóк шы́йкі мáткі; **cervical spine** шы́йны аддзéл пазванóчніка

**cervix** [ˈsɜːvɪks] *n.* (*pl.* **cervixes** *or* **cervices**) *anat.* **1.** шы́я **2.** шы́йка (*зуба, маткі*)

**cessation** [seˈseɪʃn] *n. fml* спынéнне; **a cessation of hostilities** спынéнне ваéнных дзéянняў

**CET** [ˌsiːiːˈtiː] *n.* (*скар. ад* **Central European Time**) сярэднееўрапéйскі час

**cf.** (*пісьмовае скар. ад лацін.* **confer = compare**) параўнáй, параўнáйце

**CFC** [ˌsiːefˈsiː] *n.* (*скар. ад* **chlorofluorocarbon**) *chem.* хларавáны фторвугляро́д

**CFS** [ˌsiːefˈes] *n.* (*скар. ад* **chronic fatigue syndrome**) *med.* сіндрóм хранíчнай стóмленасці (СХС)

**chaffinch** [ˈtʃæfɪntʃ] *n. zool.* берасця́нка

**chain**[1] [tʃeɪn] *n.* **1.** ланцу́г; ланцужóк; *pl.* **chains** ланцугí; ву́зы; пóвязі; кайданы́; **in chains** у ланцугáх **2.** паслядóўнасць; су́вязь; шэ́раг, рад; ход; **a chain letter** ліст/пісьмó, у якíм адрасáта прóсяць размнóжыць ягó і адаслáць íншым лю́дзям; **the chain of events** ланцу́г/шэ́раг падзéй; **the chain of mountains** гóрны ланцу́г, гóрны хрыбéт; **chain of proof** шэ́раг дóказаў **3.** *comput.* ланцужóк

**chain**[2] [tʃeɪn] *v.* **1.** замацóўваць ланцугóм, прымацóўваць ланцугáмі **2.** трымáць у ланцугáх, кайданáх; прыкóўваць, прывя́зваць (*таксама перан.*); **chain (up) a dog** пасадзíць сабáку на ланцу́г **3.** зачыні́ць на ланцужóк (*дзверы*)

**chain mail** [ˈtʃeɪnˌmeɪl] *n.* кальчу́га

**chain reaction** [ˌtʃeɪnriˈækʃn] *n. chem.* ланцугóвая рэáкцыя

**chair** [tʃeə] *n.* **1.** крэ́сла; **sit (down) on a chair** сéсці на крэ́сла; **get up from/ fall off a chair** узня́цца, устáць/звалíцца, упáсці з крэ́сла; **offer smb. a chair** прапанавáць камý-н. сéсці **2.** кáфедра (*у вышэйшай навучальнай установе*); **be appointed to a chair** атрымáць кáфедру; *He holds the chair of mathematics.* Ён кірue кафедрай матэматыкі. **3.: take the chair at a meeting** старшы́нстваваць на схóдзе, вéсці сход

**chairman** [ˈtʃeəmən] *n.* (*pl.* **-men**) старшыня́

**chairperson** [ˈtʃeəpɜːsn] *n.* старшыня́ (*мужчына або жанчына*)

**chairwoman** [ˈtʃeəwʊmən] *n.* (*pl.* **-women**) старшыня́ (*жанчына*)

**chalet** [ˈʃæleɪ] *n.* **1.** шалé (*драўляны домік у гарах з крутым пахілым дахам*) **2.** дáча, катэ́дж у швейцáрскім сты́лі

**chalk** [tʃɔːk] *n.* мел, крэ́йда ♦ **as different as chalk and cheese**; **like/as chalk and cheese** нічóга агу́льнага/супóльнага; **by a long chalk** нашмáт, намнóга; знáчна

**chalky** [ˈtʃɔːki] *adj.* мелавы́, вáпенны, вáпнавы; бéлы як крэ́йда

**challenge**[1] [ˈtʃæləndʒ] *n.* **1.** вы́клік; **launch a challenge against smb.** кíнуць камý-н. вы́клік; **meet the challenge** прыня́ць вы́клік **2.** вóклік (*вартавога*)

**challenge**[2] [ˈtʃæləndʒ] *v.* **1.** выклікáць (*на спаборніцтва*); кíдаць вы́клік **2.** аклíкнуць, затрымáць (*каб праверыць пропуск*) **3.** сумнявáцца; аспрэ́чваць **4.** патрабавáць (*увагі*) **5.** *law* аспрэ́чваць прысяжных

**challenger** [ˈtʃælɪndʒə] *n.* **1.** той, хто выклікáе (*на спаборніцтва*) **2.** прэтэндэ́нт; прэтэндэ́нтка **3.** той, хто аспрэ́чвае абó адхіля́е (*што-н.*)

**challenging** [ˈtʃælɪndʒɪŋ] *adj.* патрабавáльны; перспекты́ўны

**chamber** [ˈtʃeɪmbə] *n.* **1.** зáла пасяджэ́ння **2.** палáта (*парламента*); **Chamber of Commerce** гандлёвая палáта; **the Upper/Lower Chamber** вéрхняя/нíжняя палáта парлáмента **3.** пакóй (*у доме*), спачывáльня; зáла (*у палацы*); **a chamber concert** канцэ́рт кáмернай му́зыкі; **a chamber of horrors** пакóй жáхаў; **a chamber maid** пакаёўка; **chamber music** кáмерная му́зыка

**chameleon** [kəˈmiːliən] *n.* **1.** хамелеóн (*яшчаркa*) **2.** *derog.* чалавéк-прыстасавáнец

**chamomile** [ˈkæməmaɪl] *n.* = **camomile**

**champ** [tʃæmp] *n. infml* = **champion 1**

**champagne** [ʃæmˈpeɪn] *n.* шампáнскае

**champion** [ˈtʃæmpiən] *n.* **1.** чэмпіён; чэмпіёнка; **a boxing champion** чэмпіён па бóксе **2.** змагáр; змагáрка; барацьбíт; абарóнца; прыхíльнік; **a champion of women's rights** змагáр за правы́ жанчы́н

**championship** [ˈtʃæmpiənʃɪp] *n.* **1.** першынствó, чэмпіянáт **2.** звáнне чэмпіёна; **win a world**

**swimming championship** заваяваць званне чэмпіёна свету па плаванні

**chance**[1] [tʃɑːns] *n.* **1.** выпадак; **by chance** выпадкова **2.** шанс, шанц; магчымасць, мажлівасць; нагода; **take one's chance** рызыкаваць; **have no chance** не мець шансаў; **have not much/a poor chance** мець мала шансаў; **lose the chance** упусціць магчымасць

**chance**[2] [tʃɑːns] *v.* **1.** рызыкнуць; **Let's chance it.** Давай паспрабуем. **2.** здарацца

**chancel** [tʃɑːnsl] *n.* алтар

**chancellor** [ˈtʃɑːnsələ] *n.* **1.** канцлер **2.** дзяржаўная/юрыдычная асоба; **the Chancellor of the Exchequer** міністр фінансаў (*у Вялікабрытаніі*); **the Lord Chancellor/the Lord High Chancellor** вярхоўны суддзя (*і старшыня палаты лордаў*) **3.** прэзідэнт універсітэта **4.** рэктар (*ганаровы*)

**chandelier** [ˌʃændəˈlɪə] *n.* люстра; жырандоль

**change**[1] [tʃeɪndʒ] *n.* **1.** змена, перамена; **a change in the weather** змена надвор'я; **for a change** для разнастайнасці; *You need a change.* Вам неабходны перамены. **2.** рэшта; **small change** дробныя грошы; *Keep the change*. Рэшты не трэба./Рэшту пакіньце сабе. **3.** перасадка (*у транспарце*) **4.** змена (*бялізны, адзення*) ♦ **a change for the better/for the worse** перамена на лепшае/на горшае

**change**[2] [tʃeɪndʒ] *v.* **1.** мяняць; мяняцца; **change colour** змяніцца з твару; **change trains** перасаджвацца на іншы цягнік **2.** замяняць **3.** змяняць (*вопратку*), пераапранацца **4.** памяняць; размяняць (*грошы*) ♦ **change hands** пераходзіць у іншыя рукі; **change one's mind** перадумаць

**changeable** [ˈtʃeɪndʒəbl] *adj.* зменлівы, нясталы, няўстойлівы; **changeable weather** няўстойлівае/зменлівае надвор'е

**channel** [ˈtʃænl] *n.* **1.** праліў; канал; рэчышча; **the (English) Channel** Ла-Манш **2.** канал (*на радыё, тэлебачанні*); крыніца (*перан.*)

**chant**[1] [tʃɑːnt] *n.* **1.** *relig.* песнапенне **2.** *poet.* песня **3.** дэкламацыя, чытанне нараспеў

**chant**[2] [tʃɑːnt] *v.* **1.** спяваць, пець; **chant smb.'s praises** апяваць, усхваляць каго-н. **2.** манатонна пець **3.** гаварыць або чытаць нараспеў

**chaos** [ˈkeɪɒs] *n.* хаос, беспарадак, бязладдзе, неразбярыха, блытаніна

**chaotic** [keɪˈɒtɪk] *adj.* хаатычны, бязладны

**chap** [tʃæp] *n. infml* хлапец, хлапчына, хлапчо, малы; **a nice chap** добры хлапец, хлапчына; **a merry chap** гарэза, весялун

**chapel** [ˈtʃæpl] *n.* капліца

**chaplain** [ˈtʃæplɪn] *n. eccl.* капелан

**chapped** [tʃæpt] *adj.* патрэсканы, растрэсканы; **chapped hands** абсіveраныя/абветраныя рукі

**chapter** [ˈtʃæptə] *n.* **1.** раздзел, частка, глава (*кнігі*) **2.** перыяд, эпоха; **a chapter in history** старонка гісторыі

**char** [tʃɑː] *v.* абвугліваць; абвуглівацца; падгараць (*пра ежу*)

**character** [ˈkærəktə] *n.* **1.** характар; натура; **a man of character** чалавек з моцным характарам **2.** уласцівасць, асаблівасць **3.** рэпутацыя **4.** персанаж **5.** асоба **6.** літара; іерогліф **7.** *comput.* знак ♦ **be in character with smth.** адпавядаць чаму-н.; **out of character** неадпаведна

**characteristic**[1] [ˌkærəktəˈrɪstɪk] *n.* адметная рыса; характэрная асаблівасць; уласцівасць

**characteristic**[2] [ˌkærəktəˈrɪstɪk] *adj.* **(of)** тыповы; характэрны, уласцівы; **with his characteristic enthusiasm** з уласцівым яму энтузіязмам

**characterize,** *BrE* **-ise** [ˈkærəktəraɪz] *v.* характарызаваць

**charade** [ʃəˈrɑːd] *n.* шарада

**charcoal** [ˈtʃɑːkəʊl] *n.* драўнінны вугаль

**charge**[1] [tʃɑːdʒ] *n.* **1.** плата; цана; выдаткі, расходы **2.** абавязак; адказнасць; апека, апекаванне; нагляд; **be in charge of** несці адказнасць; адказваць (*за што-н. або каго-н.*) **3.** гадаванец; гадаванка; выхаванец; выхаванка **4.** абвінавачанне; **arrest on a charge of murder/theft** арыштаваць па абвінавачанні ў забойстве/крадзяжы **5.** атака **6.** зарад

**charge**[2] [tʃɑːdʒ] *v.* **1.** назначаць, запрошваць цану **2.** запісваць на чый-н. рахунак; *Charge this to my account.* Запішыце гэта на мой рахунак. **3.** даручаць; *He was charged with an important mission.* Яму даручылі важную справу. **4.** абвінавачваць **5.** атакаваць, нападаць; накідвацца; рынуцца **6.** *tech.* зараджаць **7.** нагружаць, загружаць

**charged** [ˈtʃɑːdʒd] *adj.* **1.** зараджаны **2.** поўны, напоўнены

**chargé d'affaires** [ˌʃɑːʒeɪdæˈfeə] *n.* (*pl.* **chargés d'affaires**) паверааны ў справах; **chargé d'affaires a.i. (ad interim)** часовы паверааны ў справах

**charger** [ˈtʃɑːdʒə] *n. tech.* зараднае прыстасаванне

**chariot** [ˈtʃæriət] *n. poet.* **1.** калясніца **2.** фаэтон

**charioteer** [ˌtʃæriəˈtɪə] *n.* **1.** *poet.* вознік калясніцы або фаэтона **2. Charioteer** *astron.* Вознік (*сузор'е*)

**charisma** [kəˈrɪzmə] *n.* харызма; прыцягальнасць; прывабнасць, абаянне, абаяльнасць

**charismatic** [ˌkærɪzˈmætɪk] *adj.* харызматы́чны; прыцягáльны; прывáбны, абая́льны
**charitable** [ˈtʃærətəbl] *adj.* **1.** дабрачы́нны; філантрапі́чны; **a charitable organization** дабрачы́нная арганізáцыя **2.** лі́тасцівы, міласэ́рны
**charity** [ˈtʃærəti] *n.* **1.** міласэ́рнасць; чу́ласць, спагáдлівасць; спачувáнне, спагáда **2.** дабрачы́ннасць; дабрачы́ннае таварыства, дабрачы́нная ўстанóва ♦ **charity begins at home** хто дбáе аб сваёй радні́, той не забу́дзе пра чужы́х
**charm**[1] [tʃɑːm] *n.* шарм, прывáбнасць, чарóўнасць
**charm**[2] [tʃɑːm] *v.* **1.** зачарóўваць, чаравáць; прывáбліваць, вáбіць **2.** заварóжваць; загавóрваць (*ад хваробы*)
**charm**[3] [tʃɑːm] *n.* амулéт
**charming** [ˈtʃɑːmɪŋ] *adj.* прывáбны, чарóўны, абая́льны; *What a charming young woman!* Якая абаяльная/прывабная жанчына!
**chart** [tʃɑːt] *n.* **1.** табли́ца; дыягрáма; схéма; план; грáфік; **a comprehensive weather chart** падрабя́зная сінапты́чная кáрта **2.** кáрта (*марская*) **3. the charts** *infml* чáрты (*штотыднёвы спіс найбольш папулярных музычных запісаў*)
**charter**[1] [ˈtʃɑːtə] *n.* **1.** хáртыя **2.** стату́т; **the United Nations Charter** Стату́т Арганізáцыі Аб'яднáных Нáцый **3.** пракáт (*транспартных сродкаў*); фрахт; чáртар; **a charter flight** чáртарны рэйс **4.** прáва; прывілéя, прывілéй
**charter**[2] [ˈtʃɑːtə] *v.* **1.** заказáць, нанáць, узя́ць напракáт (*самалёт, аўтобус*); (за)фрахтавáць (*судна*) **2.** давáць, даравáць прывілéю
**charwoman** [ˈtʃɑːwʊmən] *n. dated* (*pl.* **-women**) прыбірáльшчыца
**chase**[1] [tʃeɪs] *n.* **1.** пагóня, праслéдаванне; **give chase (to) smb.** гнáцца за кім-н. **2.** палявáнне, лóўля; паляўні́чыя **3.** паляўні́чае ўгóддзе ♦ **a wild goose chase** пагóня за недасягáльным, недася́жным
**chase**[2] [tʃeɪs] *v.* **1.** гнáцца (*за кім-н./чым-н.*); праслéдаваць **2. (after)** ганя́цца **3.** палявáць
**chasm** [ˈkæzəm] *n.* **1.** *lit.* глыбóкая раскóліна; бéздань, бяздóнне; прóрва, прадóнне **2.** *fml* глыбóкае разыхóджанне (*у поглядах, густах*); неадóльная супярэ́чнасць
**chassis** [ˈʃæsi] *n.* (*pl.* **chassis**) *tech.* шасі́; хадавáя чáстка; рáма
**chaste** [tʃeɪst] *adj.* **1.** *fml* цнóтны, цнатлі́вы, няві́нны **2.** *fml перан.* прóсты (*густ*), стрóгі (*стыль*)
**chat**[1] [tʃæt] *n.* размóва, гу́тарка, гавóрка; *comput.* чат
**chat**[2] [tʃæt] *v.* **(about, to/with)** гу́тарыць, размаўля́ць; гавары́ць
**château** [ˈʃætəʊ] *n.* (*pl.* **châteaux** *or* **châteaus**) зáмак; зáгарадны палáц (*у Францыі*)
**chatter**[1] [ˈtʃætə] *n.* **1.** балбатня́, гамэ́рня **2.** шчэ́бет, шчабятáнне; птушы́ны гóман
**chatter**[2] [ˈtʃætə] *v.* **1.** балбатáць, малóць языкóм **2.** ля́скаць (*зубамі ад холаду*) **3.** брынчáць, бры́нкаць **4.** шчабятáць
**chatterbox** [ˈtʃætəbɒks] *n. infml* балбату́н; балбату́ха; лапату́н; лапату́ха
**chatty** [ˈtʃæti] *adj. infml* гаваркі́; балбатлі́вы
**chauffeur** [ˈʃəʊfə] *n.* наёмны шафёр (*прыватнага легкавога аўтамабіля*)
**chauvinism** [ˈʃəʊvɪnɪzəm] *n.* шавіні́зм
**chauvinist** [ˈʃəʊvɪnɪst] *n.* шавіні́ст; шавіні́стка
**cheap** [tʃiːp] *adj.* **1.** тáнны, недарагі́ **2.** лёгкадасту́пны, які́ лёгка дастаéцца/дасягáецца; **a cheap victory** лёгкая перамóга **3.** дрэ́нны, які́ нічóга не вáрты, нікчэ́мны **4.** ні́зкі, пóдлы, ганéбны; **a cheap trick** зневажáльны жарт **5.** *AmE* скупы́ ♦ **on the cheap** тáнна
**cheat**[1] [tʃiːt] *n.* **1.** падмáншчык; падмáншчыца; ашукáнец; ашукáнка; махля́р; махля́рка; круцéль; жу́лік; манюка **2.** падмáн, ашукáнства
**cheat**[2] [tʃiːt] *v.* ашу́кваць, абду́рваць; падмáнваць, мані́ць; махлявáць
**check**[1] [tʃek] *n.* **1.** правéрка; кантрóль **2.** затры́мка; перашкóда **3.** клéтка (*малюнак тканіны*) **4.** *chess* шах **5.** *AmE* пту́шачка, гáлачка (*знак праверкі*) **6.** *AmE* багáжны квітóк; ярлы́к; нумарóк (*у гардэробе*); чэк **7.** *AmE* раху́нак ♦ **hold/keep smth. in check** трымáць што-н. пад кантрóлем
**check**[2] [tʃek] *v.* **1.** правярáць, кантралявáць; рэвізавáць; параўнóўваць; **check with** звярáць; супадáць **2.** спыня́ць; стры́мліваць; **check oneself** стры́млівацца; **check one's anger/laughter** стры́мліваць свой гнеў/смех; **check the enemy's advance** прыпыня́ць рух праці́ўніка напéрад **3.** *chess* аб'яўля́ць шах **4.** *AmE* здавáць багáж у кáмеру захóўвання **5.** *AmE* стáвіць пту́шачку (*знак праверкі*)
**check in** [ˌtʃekˈɪn] *phr.v.* рэгістравáцца (*у гасцініцы, гатэлі, аэрапорце*)
**check out** [ˌtʃekˈaʊt] *phr.v.* расплаці́цца за гасці́ніцу/гатэ́ль і з'éхаць, вы́пісацца з гасці́ніцы/гатэ́ля
**check up** [ˌtʃekˈʌp] *phr.v.* правярáць
**checkbook** [ˈtʃekbʊk] *n.* чэ́кавая кні́жка
**checkers** [ˈtʃekəz] *n. AmE* шáшкі; гульня́ ў шáшкі
**checklist** [ˈtʃeklɪst] *n.* кантрóльны спіс
**checkmate** [ˈtʃekmeɪt] *n. chess* шах і мат

**checkout** [ˈtʃekaʊt] *n.* **1.** кантро́ль **2.** ка́са ў магазі́не самаабслуго́ўвання
**checkpoint** [ˈtʃekpɔɪnt] *n.* кантро́льны пункт
**checkroom** [ˈtʃekrʊm] *n. AmE* = **cloakroom**
**check-up** [ˈtʃekʌp] *n.* агля́д (*медыцынскі, тэхнічны*); **enter a hospital for a check-up** ле́гчы ў бальні́цу на абсле́даванне
**Cheddar** [ˈtʃedə] *n.* чэ́дар (*гатунак сыру*)
**cheek**[1] [tʃi:k] *n.* **1.** шчака́ **2.** *infml* наха́бнасць, наха́бства ♦ **have the cheek to say smth.** мець наха́бства/наха́бнасць сказа́ць што-н.; **turn the other cheek** падста́віць другу́ю шчаку́
**cheek**[2] [tʃi:k] *v. infml* паво́дзіць/трыма́ць сябе́ наха́бна; наха́бнічаць; гавары́ць дзёрзкасці; паво́дзіць/трыма́ць сябе́ дзёрзка, хамі́ць
**cheekbone** [ˈtʃi:kbəʊn] *n. anat.* ску́ла; **with high cheekbones** шыракаску́лы
**cheekily** [ˈtʃi:kɪli] *adv. infml* развя́зна; бесцырымо́нна; дзёрзка; наха́бна, па-ха́мску
**cheekiness** [ˈtʃi:kɪnəs] *n. infml* развя́знасць; бесцырымо́ннасць; дзёрзкасць; наха́бнасць, наха́бства; ха́мства
**cheeky** [ˈtʃi:ki] *adj. infml* развя́зны; бесцырымо́нны; дзёрзкі; наха́бны; ха́мскі
**cheer**[1] [tʃɪə] *n.* **1.** пахва́льны або́ прывіта́льны во́кліч **2.** *pl.* **cheers** во́плескі, апладысме́нты **3.** *fml* вясёлы настро́й; ра́дасць; весяло́сць; **be of good cheer** быць у до́брым настро́і, быць у гумо́ры
**cheer**[2] [tʃɪə] *v.* **1.** віта́ць пахва́льнымі во́клічамі, апладысме́нтамі **2.** падбадзёрваць; падтры́мліваць сло́вам (*адабрэннем, пахвалой*)
**cheer up** [ˌtʃɪəˈrʌp] *phr.v.* падбадзёрваць; падбадзёрвацца
**cheerful** [ˈtʃɪəfəl] *adj.* **1.** бадзёры, вясёлы, ра́дасны **2.** я́ркі, све́тлы (*пра дзень*)
**cheerio** [ˌtʃɪəriˈəʊ] *interj. BrE, infml* быва́й(це)!; паку́ль!; *Cheerio! I'll see you later.* Бывай! Да сустрэчы.
**cheers** [tʃɪəz] *interj.* **1.** за ва́ша здаро́ўе! **2.** *BrE, infml* да пабачэ́ння!; да спатка́ння!; быва́й!; быва́йце!; быва́йце здаро́вы! (*асабліва па тэлефоне*) **3.** *BrE, infml* дзя́куй!
**cheese** [tʃi:z] *n.* сыр; **cottage cheese** тваро́г
**cheesy** [ˈtʃi:zi] *adj.* **1.** тваро́жысты **2.** *infml* ке́пскі, ніку́ды не ва́рты, дрэ́нны, пага́ны
**cheetah** [ˈtʃi:tə] *n. zool.* гепа́рд
**chef** [ʃef] *n.* шэф-по́вар, гало́ўны по́вар/ку́хар
**chemical**[1] [ˈkemɪkl] *n.* хіміка́т
**chemical**[2] [ˈkemɪkl] *adj.* хімі́чны; **a chemical weed killer** гербіцы́д
**chemist** [ˈkemɪst] *n.* **1.** хі́мік **2.** *BrE* аптэ́кар, фармацэ́ўт; **a chemist's (shop)** аптэ́ка
**chemistry** [ˈkemɪstri] *n.* хі́мія
**cheque** [tʃek] *n.* чэк; **pay by cheque** плаці́ць чэ́кам; **a blank cheque** незапо́ўнены чэк; *infml* карт-бла́нш, по́ўная свабо́да (*траціць грошы*)
**chequebook** [ˈtʃekbʊk] *n.* чэ́кавая кні́жка
**cheque card** [ˈtʃekkɑ:d] *n.* чэ́кавая ка́ртка
**chequered** [ˈtʃekəd] *adj.* **1.** клятча́сты, у кле́тку; страка́ты, пярэ́сты **2.** разнаста́йны; зме́нлівы
**cherish** [ˈtʃerɪʃ] *v.* **1.** пе́сціць; патура́ць; пяле́гаваць; мілава́ць; лю́біць; **cherish hopes** пе́сціць надзе́і, спадзява́цца **2.** захо́ўваць (*памяць*)
**cherry** [ˈtʃeri] *n.* ві́шня; **a cherry grove** ві́шаннік, вішня́к; **cherry red** ко́лер ві́шні, вішнёвы ко́лер
**chess** [tʃes] *n.* ша́хматы
**chessboard** [ˈtʃesbɔ:d] *n.* ша́хматная до́шка
**chessman** [ˈtʃesmən] *n.* (*pl.* **-men**) ша́хматная фігу́ра
**chess player** [ˈtʃesˌpleɪə] *n.* шахматы́ст; шахматы́стка
**chest** [tʃest] *n.* **1.** *anat.* грудна́я кле́тка, гру́дзі, грудзі́на; **a chest trouble** сухо́ты, туберкулёз; бранхі́т; **a weak chest** сла́быя лёгкія **2.** ку́фар ♦ **get smth. off one's chest** аблягчы́ць душу́, чыстасардэ́чна прызна́цца ў чым-н.
**chestnut** [ˈtʃesnʌt] *n.* **1.** кашта́н (*плод*) **2.** кашта́навае дрэ́ва, кашта́н **3.** кашта́навы ко́лер **4.** *infml* гняды́/цёмна-ры́жы/руды́ конь **5.** **: an old chestnut** збі́ты, бана́льны жарт/сюжэ́т
**chest of drawers** [ˌtʃestəvˈdrɔ:əz] *n.* камо́да
**chew**[1] [tʃu:] *n.* жава́льная гу́мка, жва́чка, жу́йка
**chew**[2] [tʃu:] *v.* жава́ць ♦ **bite off more than one can chew** паста́віць пе́рад сабо́й невыкана́льную зада́чу
**chew over** [ˌtʃu:ˈəʊvə] *phr.v.* абду́мваць
**chewing gum** [ˈtʃu:ɪŋˌgʌm] *n.* жава́льная гу́мка
**chewy** [ˈtʃu:i] *adj.* які́ ця́жка пераржо́ўваецца; які́ трэ́ба до́ўга пераржо́ўваць, каб праглыну́ць
**chic** [ʃi:k] *adj.* шыко́ўны
**chick** [tʃɪk] *n.* кураня́, куранё; птушаня, птушанё (*якое зусім нядаўна вывелася*)
**chicken** [ˈtʃɪkɪn] *n.* **1.** кураня́, куранё **2.** птушаня́, птушанё **3.** ку́рыца, кура́ціна (*страва*) **4.** *infml* баязлі́вец, мо́края ку́рыца ♦ **a chicken-and-egg situation/problem** сітуа́цыя/прабле́ма, у яко́й ця́жка адро́зніць прычы́ну ад вы́ніку; **don't count your chickens before they're hatched** кураня́т уво́сень лі́чаць
**chicken-hearted** [ˌtʃɪkɪnˈhɑ:tɪd] *adj.* нясме́лы, баязлі́вы; маладу́шны
**chickenpox** [ˈtʃɪkɪnpɒks] *n.* ветрана́я во́спа; вятра́нка; **catch chickenpox** заразі́цца вятра́нкаю
**chicory** [ˈtʃɪkəri] *n. bot.* цыко́рыя
**chief**[1] [tʃi:f] *n.* кіраўні́к; нача́льнік; шэф; зага́дчык; дырэ́ктар; правады́р пле́мені

**chief**$^{2}$ [tʃiːf] *adj.* гало́ўны, асно́ўны

**chief executive** [ˌtʃiːfɪgˈzekjətɪv] *n.* **1.** кіраўні́к карпара́цыі, фі́рмы і да т.п. **2. Chief Executive** прэзідэ́нт ЗША

**chief inspector** [ˌtʃiːfɪnˈspektə] *n.* гало́ўны інспе́ктар

**chiefly** [ˈtʃiːfli] *adv.* гало́ўным чы́нам, у пе́ршую чаргу́, перава́жна

**chieftain** [ˈtʃiːftən] *n.* правады́р (*племені, клана*)

**chilblains** [ˈtʃɪlbleɪnz] *n. pl.* абмаражэ́нне; абмаро́жаныя, змаро́жаныя ме́сцы

**child** [tʃaɪld] *n.* (*pl.* **children**) **1.** дзіця́, дзіцё; дзіцяня́, дзіцянё **2.** няво́пытны, недасве́дчаны, неспрактыкава́ны чалаве́к **3.** дзе́цішча; дзіця́; **a child of the 80s** дзіця́ васьмідзясятых (гадо́ў) ♦ **a child's play** про́стая спра́ва; **be with child** *dated* чака́ць дзіця́, быць цяжа́рнай

**childbirth** [ˈtʃaɪldbɜːθ] *n.* дзетараджэ́нне; ро́ды

**childhood** [ˈtʃaɪldhʊd] *n.* дзяці́нства; **a happy childhood** шчаслі́вае дзяці́нства; **be in one's second childhood** здзяці́нець

**childish** [ˈtʃaɪldɪʃ] *adj.* **1.** дзіця́чы; **childish sports** дзіця́чыя гу́льні; **a childish voice** дзіця́чы го́лас **2.** дзіця́чы; дзяці́ны, дзяці́нлівы; інфанты́льны; няста́лы; **a childish argument** наі́ўнае развава́жанне; **childish behaviour** дзіця́чыя паво́дзіны; **a childish idea** несур'ёзная ду́мка; **childish mind** няста́лы/няспе́лы ро́зум

**childless** [ˈtʃaɪldləs] *adj.* бяздзе́тны; **childless couples** бяздзе́тныя па́ры

**childlike** [ˈtʃaɪldlaɪk] *adj.* дзіця́чы; наві́нны, бязві́нны; **childlike trust** дзіця́чая даве́рлівасць

**children** [ˈtʃɪldrən] *pl.* → **child**

**Chilean**$^{1}$ [ˈtʃɪliən] *n.* чылі́ец; чылі́йка; **the Chileans** чылі́йцы

**Chilean**$^{2}$ [ˈtʃɪliən] *adj.* чылі́йскі

**chill**$^{1}$ [tʃɪl] *n.* **1.** хо́лад; **take the chill off** крыху́/тро́хі падагрэ́ць; *There was a chill in the air this morning.* Зранку ў паветры адчуваўся холад. **2.** хало́днасць (*у адносінах*) **3.** прасту́да; дры́жыкі; **catch a chill** прастудзі́цца

**chill**$^{2}$ [tʃɪl] *v.* ахало́джваць, ахаладзі́ць; асту́джваць, астудзі́ць; **be chilled to the bone** празя́бнуць/праме́рзнуць да са́мых ко́стак; **chill smb.'s enthusiasm** ахало́джваць чый-н. энтузія́зм/запа́л; **chilled beef** хало́дная я́лавічына (*страва*)

**chilliness** [ˈtʃɪlɪnəs] *n.* **1.** халаднава́тасць **2.** су́хасць, хало́днасць

**chilling** [ˈtʃɪlɪŋ] *adj.* стра́шны; **a chilling tale** апо́весць, ад яко́й дры́жыкі бяру́ць, стра́шная гісто́рыя

**chilly**$^{1}$ [ˈtʃɪli] *adj.* **1.** хало́дны; халаднава́ты; зя́бкі, зо́лкі **2.** *перан.* сухі́, халаднава́ты, непрыве́тлівы

**chilly**$^{2}$ [ˈtʃɪli] *adv.* **1.** хо́ладна, зя́бка **2.** *перан.* су́ха, халаднава́та, непрыве́тліва

**chime**$^{1}$ [tʃaɪm] *n.* **1.** звон, перазво́н **2.** *pl.* **chimes** кура́нты **3.** гармо́нія, сула́ддзе, му́зыка (*верша*)

**chime**$^{2}$ [tʃaɪm] *v.* **1.** звіне́ць (*пра званы*); *The bells are chiming.* Звіняць званы. **2.** біць, адбіва́ць, прабіва́ць (*пра гадзіннік*); *The clock chimed midnight.* Гадзіннік прабіў поўнач.

**chimney** [ˈtʃɪmni] *n.* ко́мін; дымахо́д

**chimney pot** [ˈtʃɪmniˌpɒt] *n. archit.* дэфле́ктар

**chimney sweep** [ˈtʃɪmniˌswiːp] *n.* камінá́р

**chimpanzee** [ˌtʃɪmpænˈziː] *n. zool.* шымпанзэ́

**chin** [tʃɪn] *n.* падбаро́дак, падбаро́ддзе, барада́ ♦ **(keep your) chin up!** *infml* (трыма́й) нос уве́рх!

**china** [ˈtʃaɪnə] *n.* фарфо́р; фарфо́равы по́суд

**Chinese**$^{1}$ [tʃaɪˈniːz] *n.* **1.** кіта́ец; кітая́нка; **the Chinese** кіта́йцы **2.** кіта́йская мо́ва

**Chinese**$^{2}$ [tʃaɪˈniːz] *adj.* кіта́йскі

**Chinese cabbage** [ˌtʃaɪniːzˈkæbɪdʒ] *n.* кіта́йская капу́ста (*ліставая*)

**chink** [tʃɪŋk] *n.* **1.** трэ́шчына, раско́ліна; шчы́ліна **2.** звон (*манет, шклянак*) ♦ **a chink in smb.'s armour** чыё-н. сла́бае ме́сца

**chip**$^{1}$ [tʃɪp] *n.* **1.** стру́жка, габлю́шка; трэ́ска, шчэ́пка; **2.** аско́лак, аске́пак (*шкла*); абло́мак (*цэглы*) **3.** шчэ́бень; друз **4.** зага́на; шчарбі́на, зазу́біна **5.** лу́стачка, скры́лік, мале́нькі кава́лачак (*бульбы, яблыка*); *pl.* **chips** сма́жаная бу́льба; **fish and chips** ры́ба са сма́жанай бу́льбай **6.** *comput.* чып (*крышталь разам з нанесенай на яго інтэгральнай схемай*) ♦ **have a chip on one's shoulder** трыма́цца задзі́рліва

**chip**$^{2}$ [tʃɪp] *v.* **1.** габлява́ць, струга́ць **2.** адко́лваць, адшчапля́ць **3.** нараза́ць бу́льбу лу́стачкамі для сма́жання

**chiropody** [kɪˈrɒpədi] *n.* педыкю́р

**chirp** [tʃɜːp] *v.* шчабята́ць, чыры́каць, цыры́каць, цвы́ркаць

**chirr** [tʃɜː] *v.* стракатá́ць

**chirrup** [ˈtʃɪrəp] *v.* = **chirp**

**chisel**$^{1}$ [ˈtʃɪzl] *n. tech.* разе́ц; до́лата; стаме́ска; зубі́ла

**chisel**$^{2}$ [ˈtʃɪzl] *v.* рабі́ць (*скульптуру*); разьбя́рыць; высяка́ць (*з каменю*)

**chit-chat** [ˈtʃɪttʃæt] *n. infml* сябро́ўская гу́тарка; балбатня́, гамэ́рня; абгаво́р, абгаво́ры

**chivalrous** [ˈʃɪvlrəs] *adj.* ры́царскі; высакаро́дны, велікаду́шны

**chivalry** [ˈʃɪvəlri] *n.* **1.** ры́царства; высакаро́днасць і адва́га **2.** *archaic* ры́цары
**chlorinate** [ˈklɔːrɪneɪt] *v.* хларава́ць; **chlorinated water** хларава́ная вада́
**chlorination** [ˌklɔːrɪˈneɪʃn] *n.* хларава́нне
**chlorine** [ˈklɔːriːn] *n. chem.* хлор
**chloroform** [ˈklɒrəfɔːm] *n. chem.* хлараფо́рм
**chlorophyll** [ˈklɒrəfɪl] *n. bot.* хларафі́л
**choc** [tʃɒk] *n. BrE, infml* (*скар. ад* **chocolate**) шакала́дка
**choc ice** [ˈtʃɒkaɪs] *n. BrE* маро́жанае ў шакала́дзе
**chocolate** [ˈtʃɒklət] *n.* **1.** шакала́д; **a bar of chocolate** плі́тка шакала́ду **2.** шакала́дная цуке́рка; **a box of chocolates** каро́бка шакала́дных цуке́рак
**choice**[1] [tʃɔɪs] *n.* **1.** вы́бар **2.** альтэрнаты́ва; **have no choice** не мець вы́бару
**choice**[2] [tʃɔɪs] *adj.* **1.** адбо́рны, ле́пшы; **choice goods** адбо́рныя тава́ры; **choice wines** то́нкія ві́ны; **of the choicest quality** найле́пшай/адмысло́вай я́касці **2.** то́нкі, вы́танчаны
**choir** [ˈkwaɪə] *n.* хор (*асабліва царкоўны ці на канцэртах*)
**choirboy** [ˈkwaɪəbɔɪ] *n.* хло́пчык-пе́ўчы; удзе́льнік хо́ру хло́пчыкаў
**choirmaster** [ˈkwaɪəˌmɑːstə] *n.* хорма́йстар
**choke**[1] [tʃəʊk] *n.* **1.** задушэ́нне, удушэ́нне; уду́шша, прыпа́дак уду́шша **2.** *tech.* дро́сельная засло́нка; дро́сель
**choke**[2] [tʃəʊk] *v.* **1.** душы́ць; душы́цца; задыха́цца; **choke to death** задушы́ць, удушы́ць **2.** заглуша́ць; **choke a fire** тушы́ць во́гнішча, касцёр, аго́нь; **choke a plant** заглуша́ць раслі́ну **3.** загрува́шчваць; **choke the highway** ствара́ць зато́р на аўтамагістра́лі
**cholera** [ˈkɒlərə] *n. med.* хале́ра
**cholesterol** [kəˈlestərɒl] *n. biochem.* халестэры́н
**choose** [tʃuːz] *v.* **(chose, chosen) 1.** выбіра́ць, адбіра́ць, падбіра́ць **2.** аддава́ць перава́гу, лічы́ць за ле́пшае; выраша́ць; лічы́ць неабхо́дным; *Choose for yourself.* Вырашай(це) сам(і); **cannot choose but** паві́нен, вы́мушаны; *I cannot choose but agree.* Мне нічога іншага не застаецца, як згадзіцца. **3.** *infml* хаце́ць, жада́ць; (*Do*) *just as you choose.* (Рабіце) як хочаце. Воля ваша. ♦ **there's nothing/not much/little to choose between A and B** яны́ адно́лькавыя
**chop**[1] [tʃɒp] *n.* **1.** уда́р (*сякерай*) **2.** адбіўна́я катле́та; **a mutton/a pork chop** адбіўна́я катле́та з бара́ніны/свіні́ны; **get the chop** *BrE, infml* быць зво́льненым з пра́цы
**chop**[2] [tʃɒp] *v.* **1.** сячы́; **chop wood** кало́ць дро́вы **2.** крышы́ць; кро́іць, нараза́ць, нарэ́зваць; шаткава́ць
**chop down** [ˌtʃɒpˈdaʊn] *phr. v.* ссяка́ць (*дрэва, куст і да т.п.*)
**chopper** [ˈtʃɒpə] *n.* **1.** нож (*мясніка*); сяке́ра **2.** *infml* верталёт
**choppy** [ˈtʃɒpi] *adj.* **1.** неспако́йны (*пра мора*); **a choppy sea** зыб на мо́ры **2.** пары́вісты (*пра вецер*)
**chopsticks** [ˈtʃɒpstɪks] *n. pl.* па́лачкі (*для яды*)
**choral** [ˈkɔːrəl] *adj.* харавы́; **a choral society** харавы́ анса́мбль; **a choral service** *eccl.* слу́жба з хо́рам
**chord** [kɔːd] *n.* **1.** *mus.* ако́рд **2.** *math.* хо́рда
**chore** [tʃɔː] *n.* **1.** падзённая пра́ца **2.** штодзённы абавя́зак; ха́тняя рабо́та; **daily chores** штодзённыя ха́тнія спра́вы/кло́паты; прыгатава́нне е́жы і прыбіра́нне; *His chore is washing the dishes.* Яго абавязак – мыць посуд.
**choreography** [ˌkɒriˈɒgrəfi] *n.* харэагра́фія
**chorus** [ˈkɔːrəs] *n.* **1.** хор, калекты́ў спевако́ў **2.** музы́чны твор для хо́ру **3.** прыпе́ў; рэфрэ́н ♦ **in chorus** хо́рам; **a chorus of loud laughter** дру́жны вы́бух сме́ху
**chose** [tʃəʊz] *past* → **choose**
**chosen** [ˈtʃəʊzən] *p.p.* → **choose**
**Christ** [kraɪst] *n.* **1.** Хрысто́с **2.** **Christ!** Бо́жа!; Бо́жухна!
**christen** [ˈkrɪsn] *v. infml* хрысці́ць; дава́ць імя́ пры хрышчэ́нні, называ́ць
**christening** [ˈkrɪsnɪŋ] *n. eccl.* хрышчэ́нне
**Christian**[1] [ˈkrɪstʃən] *n.* хрысція́нін; хрысція́нка
**Christian**[2] [ˈkrɪstʃən] *adj.* **1.** хрысція́нскі; **the Christian Church** хрысція́нская царква́; **a Christian name** імя́ (*у адрозненне ад прозвішча*); **the Christian era** хрысція́нскае летазлічэ́нне
**Christianity** [ˌkrɪstiˈænəti] *n.* хрысція́нства
**Christmas** [ˈkrɪsməs] *n.* Нараджэ́нне Хрысто́ва; Каля́ды; **a Christmas card** каля́дная віншава́льная паштóўка; **Christmas Day** пе́ршы дзень Каля́д (*25 снежня*); **Christmas Eve** пярэ́дадзень Каля́д, По́сная куцця́; **Christmas pudding** каля́дны пу́дынг; **a Christmas stocking** панчо́ха для каля́дных падару́нкаў дзе́цям; **a Christmas tree** каля́дная ёлка; *Merry Christmas!* Віншую з Калядамі!
**chromatic** [krəˈmætɪk] *adj. mus.* храматы́чны, каляро́вы; **a chromatic scale** храматы́чная га́ма
**chrome** [krəʊm] *n.* **1.** *chem.* хром **2.** жо́ўтая фа́рба; жо́ўты ко́лер

**chromium** [ˈkrəʊmiəm] *n. chem.* хром; **chromium plating** *tech.* храмі́раванне

**chromosome** [ˈkrəʊməsəʊm] *n. biol.* храмасо́ма; **a chromosome map** ка́рта размяшчэ́ння ге́наў у храмасо́ме; **a chromosome set** набо́р храмасо́м

**chronic** [ˈkrɒnɪk] *adj.* **1.** храні́чны; зацяжны́; застарэ́лы; **a chronic disease** храні́чнае захво́рванне; **a chronic invalid** хво́ры-хро́нік; **chronic rheumatism** храні́чны рэўматы́зм **2.** пастая́нны **3.** *infml* ве́льмі дрэ́нны; невыно́сны; **chronic poverty** безнадзе́йная гале́ча, беспрасве́цце

**chronically** [ˈkrɒnɪkli] *adv.* храні́чна; праця́гла; пастая́нна, ве́чна

**chronicle** [ˈkrɒnɪkl] *n.* хро́ніка; ле́тапіс

**chronological** [ˌkrɒnəˈlɒdʒɪkl] *adj.* храналагі́чны; **in chronological order** у храналагі́чным пара́дку

**chronologically** [ˌkrɒnəˈlɒdʒɪkəli] *adv.* храналагі́чна, у храналагі́чным пара́дку

**chrysalis** [ˈkrɪsəlɪs] *n. zool.* ку́калка (*насяко́мых*); ко́кан

**chrysanthemum** [krɪˈsænθəməm] *n. bot.* хрызантэ́ма

**chubby** [ˈtʃʌbi] *adj.* пу́хлы, пу́льхны, по́ўны; круглатва́ры; **chubby cheeks** пу́хлыя шчо́чкі; **a chubby child** по́ўненькае дзіця́

**chuck** [tʃʌk] *v. infml* кі́даць, шпуля́ць, шпурля́ць
**chuck away** [ˌtʃʌkəˈweɪ] *phr.v.* выкі́дваць; **chuck away money** раскі́дваць гро́шы; **chuck away rubbish** выкі́дваць, выно́сіць сме́цце
**chuck out** [ˌtʃʌkˈaʊt] *phr.v. infml* вы́шпурнуць, вы́кінуць (*неспакойнага наведвальніка з памяшкання*)

**chuckle¹** [ˈtʃʌkl] *n.* задаво́лены смех; хіхі́канне

**chuckle²** [ˈtʃʌkl] *v.* **(at/about)** пасме́йвацца; хіхі́каць; **give a chuckle** хіхі́кнуць

**chug** [tʃʌg] *v.* ру́хацца з пы́хканнем (*пра паравоз, параход*)

**chum** [tʃʌm] *n. infml, dated* неразлу́чны ся́бар, шчы́ры ся́бар; тава́рыш

**chummy** [ˈtʃʌmi] *adj. infml, dated* сябро́ўскі, закады́чны

**chunk** [tʃʌŋk] *n.* то́ўсты кава́лак, лу́ста, скі́ба, скрыль (*мяса, сыру і да т.п.*)

**chunky** [ˈtʃʌŋki] *adj.* **1.** то́ўсты і каро́ткі **2.** каржакава́ты (*пра чалавека*)

**church** [tʃɜːtʃ] *n.* **1.** царква́; касцёл; **St. Andrew's Church** касцёл св. Андрэ́я **2.** хрысція́нскае веравызна́нне **3. Church** царква́ (*арганізацыя*); **the Church of England** англіка́нская царква́

**churchman** [ˈtʃɜːtʃmən] *n.* (*pl.* **-men**) = **clergyman**

**churchyard** [ˈtʃɜːtʃjɑːd] *n.* мо́гільнік пры царкве́, паго́ст, цвінта́р

**churn¹** [tʃɜːn] *n.* **1.** маслабо́йка **2.** *BrE* біто́н для малака́

**churn²** [tʃɜːn] *v.* **1.** збіва́ць ма́сла **2.** узбо́ўтваць, узбіва́ць, запе́ньваць
**churn out** [ˌtʃɜːnˈaʊt] *phr. v. infml* штампава́ць (*неадабральна*)

**chute** [ʃuːt] *n.* **1.** стро́ма, кру́ча; круты́ схіл; **a garbage/rubbish chute** смеццеправо́д **2.** пака́ты насці́л **3.** го́рка (*штучная*) **4.** *infml* (*скар. ад* **parachute**) парашу́т

**chutney** [ˈtʃʌtni] *n.* ча́тні (*вострая прыправа да мяса з садавіны, гародніны, спецый*)

**CIA** [ˌsiːaɪˈeɪ] (*скар. ад* **Central Intelligence Agency**) ЦРУ, Цэнтра́льнае разве́двальнае ўпраўле́нне (*ЗША*)

**ciao** [tʃaʊ] *interj. італ., infml* прывіта́нне!; паку́ль!; быва́й!; да пабачэ́ння!

**cicatrice** [ˈsɪkətrɪs] *n.* шрам, шнар, рубе́ц (*ад раны*)

**CID** [ˌsiːaɪˈdiː] (*скар. ад* **Criminal Investigation Department**) Аддзе́л крыміна́льнага вы́шуку (*у брытанскай паліцыі*)

**cider** [ˈsaɪdə] *n.* сідр, я́блычнае віно́

**cigar** [sɪˈgɑː] *n.* цыга́ра

**cigarette** [ˌsɪgəˈret] *n.* цыгарэ́та

**C-in-C** [ˌsiːɪnˈsiː] (*скар. ад* **Commander-in-Chief**) глаўко́м, галоўнакама́ндуючы

**cinder** [ˈsɪndə] *n.* **1.** ву́галь; **burnt to a cinder** мо́цна падгарэ́лы, згарэ́лы (*пра страву*); **the cinders** *sport* га́равая даро́жка **2.** по́пел

**Cinderella** [ˌsɪndəˈrelə] *n.* Папялу́шка (*таксама перан.*)

**cine camera** [ˈsɪniˌkæmərə] *n.* кінака́мера

**cinema** [ˈsɪnəmə] *n.* кіно́; кінатэа́тр; **go to the cinema** хадзі́ць у кіно́

**cinematic** [ˌsɪnəˈmætɪk] *adj.* кінематаграфі́чны

**cinnamon** [ˈsɪnəmən] *n. bot.* кары́ца

**cipher¹** [ˈsaɪfə] *n.* шыфр, код

**cipher²** [ˈsaɪfə] *v.* шыфрава́ць, зашыфро́ўваць, кадзі́раваць

**circa** [ˈsɜːkə] *prep. fml* прыблі́зна, пры́кладна; **circa 1830** прыблі́зна 1830 год

**circle¹** [ˈsɜːkl] *n.* **1.** круг, акру́жнасць; **draw a circle** начарці́ць круг; **move in circles** кружы́ць **2.** сфе́ра, галіна́ **3.** ко́ла (*група людзей*); асяро́дак, асяро́ддзе; **in theatrical circles** у тэатра́льных ко́лах, сяро́д акцёраў **4.** гурто́к **5.** кругаваро́т, цыкл **6.** *theatre* я́рус; **the dress circle** бельэта́ж; **the upper circle** балко́н

**circle²** [ˈsɜːkl] *v.* круці́цца, вярце́цца; кружы́ць; кружы́цца

**circuit** [ˈsɜːkɪt] *n.* **1.** *tech.* электры́чны ланцу́г; **short circuit** каро́ткае замыка́нне **2.** аб'е́зд

**3.** акру́жнасць **4.** кругава́я пае́здка **5.** акру́га (*судовая*); **circuit court** акруго́вы суд

**circuit breaker** [ˌsɜːkɪtˈbreɪkə] *n. tech.* рубільнік

**circular**[1] [ˈsɜːkjələ] *n. fml* цыркуля́р

**circular**[2] [ˈsɜːkjələ] *adj.* **1.** кру́глы **2.** кругавы́ **3.** цыркуля́рны

**circular saw** [ˌsɜːkjələˈsɔː] *n. tech.* цыркуля́рная пілá

**circulate** [ˈsɜːkjəleɪt] *v.* **1.** цыркулява́ць, хадзі́ць (*аб чутках*) **2.** абаро́чвацца, быць у абарачэ́нні (*аб грашах*) **3.** распаўсю́джваць; распаўсю́джвацца

**circulation** [ˌsɜːkjəˈleɪʃn] *n.* **1.** цыркуля́цыя **2.** абарачэ́нне, абаро́т (*таксама грашовы*); тыра́ж (*газет, часопісаў*)

**circumcision** [ˌsɜːkəmˈsɪʒn] *n. relig.* абраза́нне

**circumstance** [ˈsɜːkəmstəns] *n.* **1.** *pl.* **circumstances** абста́віны, умо́вы, вару́нкі **2.** вы́падак, факт, акалі́чнасць; **an unforeseen circumstance** непрадба́чаная акалі́чнасць **3.** *pl.* **circumstances** матэрыя́льнае або́ фіна́нсавае стано́вішча; **in comfortable/easy circumstances** у до́брым матэрыя́льным стано́вішчы; **in reduced circumstances** у ця́жкім матэрыя́льным стано́вішчы ♦ **in/under the circumstances** пры да́дзеных абста́вінах, у гэ́тых умо́вах; **in/under no circumstances** ні ў я́кім ра́зе

**circumvent** [ˌsɜːkəmˈvent] *v. fml* **1.** абыхо́дзіць (*правілы або абмежаванні*); абміна́ць; **circumvent the town** абміну́ць го́рад **2.** перахітры́ць, ашука́ць

**circus** [ˈsɜːkəs] *n.* **1.** цырк **2.** *BrE* пло́шча (кру́глая); **Piccadilly Circus** пло́шча Пікадзы́лі

**cistern** [ˈsɪstən] *n.* цыстэ́рна, рэзервуа́р, бак

**citadel** [ˈsɪtədəl] *n.* **1.** цытадэ́ль; крэ́пасць **2.** прыста́нішча, прыста́нак, прыту́лак

**citation** [saɪˈteɪʃn] *n.* **1.** спасы́лка **2.** цыта́цыя; цыта́та **3.** *law* вы́клік/вы́заў у суд; по́зва/паве́стка ў суд

**cite** [saɪt] *v.* **1.** спасыла́цца, прыво́дзіць; **cite an instance** прыве́сці пры́клад; **cite precedent/authority/law** спасыла́цца на прэцэдэ́нт/аўтарытэ́ты/арты́кул зако́на **2.** цытава́ць **3.** пералі́чваць, узга́дваць, упаміна́ць **4.** *law* выкліка́ць у суд (*у якасці абвінавачанага або сведкі*)

**citizen** [ˈsɪtɪzn] *n.* **1.** грамадзя́нін; грамадзя́нка; **a citizen of the world** касмапалі́т **2.** гараджа́нін; гараджа́нка; жыха́р го́рада

**citizenship** [ˈsɪtɪzənʃɪp] *n.* **1.** грамадзя́нства, падда́нства **2.** абавя́зкі, правы́ і прывіле́і грамадзя́ніна

**citrus**[1] [ˈsɪtrəs] *n. bot.* цы́трус

**citrus**[2] [ˈsɪtrəs] *adj.* цы́трусавы

**city** [ˈsɪti] *n.* **1.** (вялі́кі) го́рад **2.** *BrE* го́рад з сабо́рам **3.** **the City** Сі́ці (*частка Лондана, якая з'яўляецца фінансавым і дзелавым цэнтрам Вялікабрытаніі*)

**city hall** [ˌsɪtiˈhɔːl] *n. AmE* буды́нак муніцыпалітэ́та, гарадско́га саве́та, ра́туша, гарадска́я ўпра́ва

**civic** [ˈsɪvɪk] *adj.* **1.** гарадскі́, муніцыпа́льны; **a civic centre** *BrE* гарадскі́ цэнтр **2.** грамадзя́нскі; **civic duties** грамадзя́нскія абавя́зкі

**civic-minded** [ˌsɪvɪkˈmaɪndɪd] *adj.* з пачуццём грамадзя́нскага абавя́зку

**civil** [ˈsɪvl] *adj.* **1.** грамадзя́нскі; **civil rights** грамадзя́нскія правы́ **2.** цыві́льны; **enter civil life** дэмабілізава́цца, пакі́нуць во́інскую слу́жбу; **civil law** грамадзя́нскае пра́ва; **civil marriage** грамадзя́нскі шлюб; **the Civil Service** дзяржа́ўная слу́жба; **a civil servant** дзяржа́ўны слу́жачы **3.** дэліка́тны, ве́тлівы, ве́тлы

**civilian**[1] [səˈvɪliən] *n.* цыві́льны (чалаве́к) (*у адрозненне ад ваеннага*)

**civilian**[2] [səˈvɪliən] *adj.* цыві́льны; **civilian clothes** цыві́льная во́пратка

**civilization,** *BrE* **-isation** [ˌsɪvəlaɪˈzeɪʃn] *n.* **1.** цывіліза́цыя **2.** цывілізава́ныя кра́іны

**civilize,** *BrE* **-ise** [ˈsɪvəlaɪz] *v.* цывілізава́ць; зрабі́ць культу́рным

**civilized,** *BrE* **-ised** [ˈsɪvəlaɪzd] *adj.* цывілізава́ны; вы́хаваны, культу́рны

**clad**[1] [klæd] *adj. fml* апра́нуты; **poorly clad** бе́дна апра́нуты; *poet.* аху́таны

**clad**[2] [klæd] *past, p.p.* → **clothe**

**claim**[1] [kleɪm] *n.* **1.** патрабава́нне; прэтэ́нзія; дамага́нне **2.** іск; рэклама́цыя **3.** сцвярджэ́нне **4.** *AmE, AustralE* уча́стак, адве́дзены пад распрацо́ўку не́траў ♦ **lay claim to smth.** дамага́цца чаго́-н.

**claim**[2] [kleɪm] *v.* **1.** патрабава́ць **2.** прэтэндава́ць **3.** заяўля́ць

**claimant** [ˈkleɪmənt] *n.* **1.** той, хто прад'яўля́е правы́; прэтэндэ́нт **2.** *law* ісце́ц

**clairvoyance** [kleəˈvɔɪəns] *n.* **1.** яснаба́чанне **2.** прадба́чанне; празо́рлівасць

**clam** [klæm] *n. zool.* ядо́мы марскі́ малю́ск

**clamber** [ˈklæmbə] *v.* **(up/among)** кара́бкацца, кара́скацца

**clammy** [ˈklæmi] *adj.* вільго́тны, мо́крым; хало́дны і лі́пкі/слі́зкі наво́бмацак; **clammy hands** хало́дныя і лі́пкія ру́кі

**clamor** [ˈklæmə] *AmE* = **clamour**

**clamour** [ˈklæmə] *v.* шу́мна патрабава́ць, падыма́ць шум; бу́рна выка́зваць пратэ́ст

**clamp**[1] [klæmp] *n.* **1.** скаба́ **2.** заціска́чка

**clamp**[2] [klæmp] *v.* змацóўваць, зацiскáць, сашчапляць

**clamp down** [ˌklæmpˈdaʊn] *phr.v.* **(on smb./ smth.)** стаць стрóгiм/патрабавáльным (да кагó-н.); спынíць/спрабавáць спынíць штo-н.

**clan** [klæn] *n.* клан, род

**clandestine** [klænˈdestɪn] *adj. fml* таéмны, тáйны, скры́тны; нелегáльны

**clang** [klæŋ] *v.* ля́скаць, брáзгаць, бразгатáць; звiнéць

**clanger** [ˈklæŋə] *n. BrE, infml* вéльмi прыкмéтная памы́лка; няўдáлая заўвáга; **drop a clanger** зрабíць памы́лку, ля́пнуць (*штo-н.*)

**clank** [klæŋk] *v.* брáзгаць, бразгатáць, ля́скаць, грукацéць

**clap**[1] [klæp] *n.* **1.** пля́сканне ў далóнi, апладзíраванне **2.** удáр (*грому*) **3.** ля́сканне, пля́сканне, шлёпанне

**clap**[2] [klæp] *v.* **1.** пля́скаць (*у далонi*); апладзíраваць **2.** ля́паць, ля́скаць **3.** зрабíць рэ́зкi рух **4.** паля́паць, пахлóпаць (*па плячы*)

**clapper** [ˈklæpə] *n.* язы́к/сэ́рца звóна ♦ **like the clappers** *BrE, infml* вéльмi хýтка/вéльмi мóцна

**claret** [ˈklærət] *n.* **1.** кларэ́т (*сухое чырвонае вiно тыпу бардо*) **2.** цёмна-чырвóны кóлер

**clarification** [ˌklærəfɪˈkeɪʃn] *n.* **1.** праяснéнне **2.** ачышчэ́нне (*вадкасцi*)

**clarify** [ˈklærəfaɪ] *v. fml* **1.** праясня́ць; праясня́цца **2.** ачышчáць (*вадкасць, масла i да т.п.*)

**clarinet** [ˌklærəˈnet] *n. mus.* кларнéт

**clarinettist** [ˌklærəˈnetɪst] *n.* кларнеты́ст

**clarity** [ˈklærəti] *n.* **1.** я́снасць; **clarity of thought** я́снасць дýмкi **2.** чысцiня́, чыстатá, празры́стасць

**clash**[1] [klæʃ] *n.* **1.** ляск/брáзганне (*зброi*), брáзгат; звон, гул/гуд (*званоў*); грýкат (*бiтонаў, каструль*) **2.** сутыкнéнне; суты́чка, сты́чка; канфлíкт; рознагалóссе; **a clash of interests** сутыкнéнне iнтарэ́саў; **a clash of opinions** разыхóджанне ў пóглядах

**clash**[2] [klæʃ] *v.* **1.** сутыкáцца, стýкацца, ударáцца адзíн аб аднагó **2.** канфлiктавáць **3.** дысгарманíраваць **4.** адбывáцца адначасóва; перашкаджáць/замiнáць адзíн аднамý

**clasp**[1] [klɑːsp] *n.* **1.** спрáжка; зáсцежка **2.** пóцiск (*рукi*); абды́мкi

**clasp**[2] [klɑːsp] *v.* **1.** сцiскáць, зацiскáць; пацiскáць (*рукi*) **2.** абдымáць, абнiмáць; **clasp in one's arms** абнiмáць **3.** зашпíльваць, зашпiля́ць

**clasp knife** [ˈklɑːspˌnaɪf] *n.* сцiзóрык, складны́ нож

**class**[1] [klɑːs] *n.* **1.** клас, род, разрáд, катэгóрыя **2.** (*грамадскi*) клас; **the middle class** сярэ́днi слой грамáдства; **the upper class** арыстакрáтыя; **the working class** працóўныя **3.** клас (*у школе*); **top of the class** пéршы вýчань (*у класе*) **4.** урóк; *pl.* **classes** заня́ткi

**class**[2] [klɑːs] *adj. infml* клáсны, вéльмi дóбры

**class**[3] [klɑːs] *v.* **1.** класiфiкавáць, сартавáць **2. (among)** прылiчáць, прылíчваць

**classic**[1] [ˈklæsɪk] *n.* **1.** клáсiк **2.** класíчны твор; **the classics** грэ́чаская i лацíнская мóва/лiтаратýра

**classic**[2] [ˈklæsɪk] *adj.* **1.** класíчны, анты́чны **2.** дасканáлы, выдáтны; элегáнтны

**classical** [ˈklæsɪkl] *adj.* **1.** класíчны, гуманiтáрны **2.** стрóгi, традыцы́йны

**classification** [ˌklæsɪfɪˈkeɪʃn] *n.* класiфiкáцыя

**classified** [ˈklæsɪfaɪd] *adj.* **1.** класiфiкавáны, сiстэматызавáны; **classified advertisements** карóткiя аб'я́вы, разнéсеныя па рýбрыках **2.** *fml* сакрэ́тны; якí мáе грыф сакрэ́тнасцi; **classified information** сакрэ́тныя дáныя; **a classified publication** выдáнне «з гры́фам», выдáнне для службóвага карыстáння

**classify** [ˈklæsɪfaɪ] *v.* **1.** класiфiкавáць, сартавáць; разнóсiць па рýбрыках **2.** засакрэ́цiць (*дакумент, звесткi*), наклáсцi грыф «сакрэ́тна»

**classmate** [ˈklɑːsmeɪt] *n.* аднаклáснiк; аднаклáснiца, аднакáшнiк; савýчань; савучанíца

**classroom** [ˈklɑːsrʊm] *n.* клас, клáсны пакóй

**clatter**[1] [ˈklætə] *n.* **1.** стук **2.** грук, грýкат, ляск **3.** тýпат **4.** балбатня́, траскатня́

**clatter**[2] [ˈklætə] *v.* **1.** стýкаць, брáзгаць, бразгатáць **2.** грукацéць, грукатáць, грýкаць, ля́скаць **3.** тупацéць **4.** балбатáць, лапатáць

**clause** [klɔːz] *n.* **1.** *ling.* сказ (*як частка складанага сказа*); **the main/principal clause** галóўны сказ; **a subordinate clause** дадáны сказ **2.** арты́кул, пункт; умóва; агавóрка, клáўзула (*дамовы, дагавора, кантракта, завяшчання*)

**claustrophobia** [ˌklɔːstrəˈfəʊbiə] *n. med.* клаўстрафóбiя

**claustrophobic** [ˌklɔːstrəˈfəʊbɪk] *adj.* **1.** якí выклiкáе клаўстрафóбiю **2.** схíльны да клаўстрафóбii

**claw**[1] [klɔː] *n.* **1.** кiпцю́р, кíпець, пазýр **2.** лáпа з кiпцюрáмi **3.** клю́шня **4.** *tech.* кулáк, зубéц

**claw**[2] [klɔː] *v.* **1.** дрáпаць, драць, раздзiрáць, (i)рвáць **2.** схапíць, схвацíць (*кiпцюрамi, лапамi*) **3.** прáгна хапáць (*рукой*); заграбáць (*грошы*)

**clay** [kleɪ] *n.* глíна

**clayey** [ˈkleɪi] *adj.* глíнiсты

**clean**[1] [kliːn] *adj.* **1.** чы́сты; ахáйны; **clean habits** ахáйнасць; **clean hands** чы́стыя рýкi; **keep oneself clean** быць ахáйным; **keep one's house clean** трымáць дом у чысцiнí/чыстацé

**2.** свéжы, якí не быў у карыстáнні; **clean clothes** свéжая вóпратка; **a clean page** чы́стая старóнка **3.** дабрачы́нны, дабрадзéйны, цнатлíвы, цнóтны; **lead a clean life** жыць дабрачы́нна **4.** сумлéнны, праўдзíвы; **a clean fight** сумлéнная барацьбá **5.** прыстóйны; **clean jokes** прыстóйныя жáрты

**clean**[2] [kliːn] *v.* **1.** чы́сціць; **clean boots/nails/teeth** чы́сціць чаравíкі/пазнóгці/зýбы **2.** прыбірáць; **clean a floor** (вы́)мыць падлóгу; **clean a room** прыбірáць пакóй; **have one's clothes cleaned** аддавáць вóпратку ў чы́стку

**clean**[3] [kliːn] *adv. infml* **1.** зусíм, цáлкам, пóўнасцю; *I clean forgot about it.* Я зусім забыўся на гэта. **2.** прóста, прáма; *The bullet went clean through the arm.* Куля прайшла прама праз руку.

**cleaner** [ˈkliːnə] *n.* **1.** чысцíльшчык; чысцíльшчыца; прыбірáльшчык; прыбірáльшчыца; мы́йшчык; мы́йшчыца **2.** прыстасавáнне абó срóдак для чы́сткі

**cleaner's** [ˈkliːnəz] *n.* хімчы́стка

**cleaning** [ˈkliːnɪŋ] *n.* чы́стка, чы́шчанне; **do the cleaning** чы́сціць

**cleanliness** [ˈklenlinəs] *n.* чысцiня́, чыстатá, ахáйнасць

**cleanly** [ˈkliːnli] *adv.* чы́ста; дабрачы́нна, дабрадзéйна; **live cleanly** жыць дабрачы́нна/дабрадзéйна

**cleanness** [ˈkliːnnəs] *n.* чысцiня́, чыстатá; **cleanness of style** чысцiня́/чыстатá/прыгажóсць сты́лю

**cleanse** [klenz] *v.* **1.** ачышчáць **2.** дэзынфіцы́раваць; **cleanse a wound** дэзынфіцы́раваць рáну

**cleanser** [ˈklenzə] *n.* дэзынфекцы́йны срóдак; срóдак для чы́сткі

**clean-shaven** [ˌkliːnˈʃeɪvn] *adj.* чы́ста вы́галены, пагóлены, вы́брыты

**clear**[1] [klɪə] *adj.* **1.** свéтлы, я́сны, чы́сты; **clear conscience** чы́стае сумлéнне; **a clear day** я́сны дзень; **a clear sky** чы́стае/я́снае/бязвóблачнае/бясхмáрнае нéба **2.** чы́сты, празры́сты; **clear glass** празры́стае шклó; **clear water** празры́стая вадá **3.** вырáзны, я́сны, зразумéлы; **have a clear idea** мець я́снае ўяўлéнне; **that's clear** зразумéла **4.** свабóдны, бесперашкóдны; **a clear passage** свабóдны прахóд **5.** пóўны; цэ́лы; абсалю́тны; **clear profit** чы́сты прыбы́так; **three clear days** цэ́лыя тры дні; **obtain a clear majority** атрымáць абсалю́тную бóльшасць (*галасоў*) ♦ **in the clear** свабóдны ад падазрэ́нняў; якí сябé нíчым не запля́міў; **out of a clear blue sky** нечпадзявáна, раптóўна

**clear**[2] [klɪə] *v.* **1.** ачышчáць; ачышчáцца; станавíцца чы́стым/я́сным/празры́стым; прыбірáць; **clear one's throat** адкáшляцца; **clear the table** прыбрáць са сталá **2.** апраўдваць; ачышчáць ад падазрэ́нняў **3.** пераскóкваць; браць перашкóду **4.** атры́мліваць чы́сты прыбы́так

**clear away** [ˌklɪərəˈweɪ] *phr.v.* прыбірáць; рассéйвацца, разыхóдзіцца

**clear off** [ˌklɪərˈɒf] *phr.v.* **1.** скóнчыць недарóбленую прáцу **2.** *infml* ісцí прэч

**clear out** [ˌklɪərˈaʊt] *phr.v.* **1.** прыбірáць; апаражня́ць, спаражня́ць, ачышчáць **2.** *infml* выбірáцца, змóтвацца

**clear up** [ˌklɪərˈʌp] *phr.v.* **1.** праясня́ць; праясня́цца; праяснéць; высвятля́ць; **clear up a misunderstanding** высвятля́ць непаразумéнне **2.** прыбірáць

**clear**[3] [klɪə] *adv.* **1.** вырáзна; **speak loud and clear** гавары́ць гýчна/гóласна/мóцна і вырáзна **2.** зусíм, цáлкам, пóўнасцю; **three feet clear** цэ́лыя тры фýты ♦ **get clear away** уцячы́, не пакíнуўшы слядóў; адчапíцца; адвязáцца; **keep clear (of)** пазбягáць; асцерагáцца, сцерагчы́ся

**clearance** [ˈklɪərəns] *n.* **1.** ачы́стка, расчы́стка; **a clearance sale** распрóдаж **2.** устаранéнне перашкóды **3.** дазвóл, дóпуск; **security clearance** правéрка добранадзéйнасці **4.** паля́на, ля́да **5.** *tech.* зазóр

**clearing** [ˈklɪərɪŋ] *n.* **1.** ачы́стка, расчы́стка **2.** прагáліна, прагáл, паля́на **3.** *finance* клíрынг, безная́ўны разлíк памíж бáнкамі

**clearly** [ˈklɪəli] *adv.* я́сна; вырáзна; гýчна, звóнка; зразумéла; **see clearly** бáчыць вырáзна; **sing clearly** спявáць звóнка; **speak clearly** гавары́ць вырáзна; **state one's facts clearly** я́сна вы́класці фáкты; **understand clearly** я́сна разумéць **2.** безумóўна; вядóма; зразумéла; бясспрэ́чна

**clear-sighted** [ˌklɪəˈsaɪtɪd] *adj.* празóрлівы, дальнабáчны, пранíклівы

**clef** [klef] *n. mus.* ключ

**clench** [klentʃ] *v.* **1.** сціскáць; **clench one's fists** сціскáць кулакí; **clench one's jaws/teeth** сціскáць скíвіцы/зýбы **2.** мóцна трымáць

**clergy** [ˈklɜːdʒi] *n.* **the clergy** духавéнства

**clergyman** [ˈklɜːdʒimən] *n.* (*pl.* **clergymen**) святáр, свяшчэ́ннік, пáстар

**clerical** [ˈklerɪkl] *adj.* **1.** духóўны **2.** клерыкáльны **3.** пíсарскі, канцыля́рскі; **a clerical error** апíска, памы́лка дрýку; **clerical work** канцыля́рская прáца

**clerk** [klɑ:k] *n.* **1.** клерк, канто́рскі слу́жачы **2.** чыно́ўнік, сакрата́р **3.** *AmE* прадаве́ц; прадаўшчы́ца (*у магазіне*) **4.** *AmE* дзяжу́рны адміністра́тар

**clever** [ˈklevə] *adj.* **1.** разу́мны, ке́млівы **2.** таленаві́ты, здо́льны; **be clever at smth.** до́бра, уме́ла рабі́ць што-н. **3.** спры́тны, уме́лы, майстэ́рскі; **a clever workman** уме́лы рабо́тнік **4.** адмысло́ва/до́бра/па-майстэ́рску зро́блены

**cliché** [ˈkli:ʃeɪ] *n. ling.* кліשэ́, штамп

**click¹** [klɪk] *n.* шчаўчо́к; *comput.* клік

**click²** [klɪk] *v.* **1.** шчо́ўкаць, пстры́каць; **click one's heels** шчо́ўкаць/ля́скаць абца́самі; **click one's tongue** прыцмо́кваць языко́м; *The door clicked shut.* Дзверы зашчоўкнуліся. **2.** *infml* дайсці́, дапя́ць, стаць зразуме́лым, клёку дайсці́ **3. (with)** *infml* карыста́цца по́спехам **4.** *comput.* шчо́ўкаць мы́шкай

**client** [ˈklaɪənt] *n.* **1.** кліе́нт **2.** пастая́нны пакупні́к; пакупні́ца; зака́зчык; зака́зчыца

**clientele** [ˌkli:ənˈtel] *n.* кліенту́ра

**cliff** [klɪf] *n.* уцёс, скала́, стро́ма; **the white cliffs of Dover** бе́лыя ска́лы Ду́ўра

**climate** [ˈklaɪmət] *n.* клі́мат; **mild/healthy/scorching/dry/humid/wet/temperate climate** мя́ккі/здаро́вы/спяко́тны/сухі́/вільго́тны/сыры́/уме́раны клі́мат **2.** атмасфе́ра, настро́й, настро́й ду́мак

**climatic** [klaɪˈmætɪk] *adj.* кліматы́чны; **the climatic conditions** кліматы́чныя ўмо́вы

**climax** [ˈklaɪmæks] *n.* **1.** апаге́й, найвышэ́йшы пункт, кульмінацы́йны мо́мант, кульміна́цыя **2.** аргa̍зм

**climb** [klaɪm] *v.* **1.** кара́скацца, кара́бкацца; узбіра́цца, узла́зіць; узніма́цца, уздыма́цца; падыма́цца, паднімáцца; **climb a rope** узбіра́цца па кана́це; **climb a tree** узле́зці на дрэ́ва **2.** ві́цца (*аб раслінах*) **3.** набіра́ць вышыню́

**climb down** [ˌklaɪmˈdaʊn] *phr.v.* **1.** зла́зіць (*з дрэва*) **2.** *infml* саступа́ць, уступа́ць, прызнава́ць сваé памы́лкі

**climber** [ˈklaɪmə] *n.* **1.** альпіні́ст; альпіні́стка **2.** паво́йная раслі́на **3.** славалю́б, кар'еры́ст

**climbing** [ˈklaɪmɪŋ] *n.* узыхо́джанне на гару́; альпіні́зм

**clinch** [klɪntʃ] *v.* **1.** канчатко́ва выраша́ць, дамаўля́цца; дабіва́цца; **clinch a deal** заклю-чы́ць здзе́лку **2.** *sport* увайсці́ ў клінч

**cling** [klɪŋ] *v.* **(clung) (to)** чапля́цца, прыліпа́ць; трыма́цца; *Wet clothes cling to the body.* Мокрае адзенне прыліпае да цела.

**clinic** [ˈklɪnɪk] *n.* клі́ніка

**clinical** [ˈklɪnɪkl] *adj.* кліні́чны; **clinical history** гісто́рыя хваро́бы; **clinical record** гісто́рыя хваро́бы, бланк гісто́рыі хваро́бы

**clink** [klɪŋk] *v.* **1.** звіне́ць, дзі́нькаць, бра́згаць; **glasses/keys/coins clink** звіня́ць шкля́нкі/ключы́/мане́ты **2.** звіне́ць, бра́згаць (*чым-н.*); **clink glasses with smb.** чо́кацца, піць за чыё-н. здаро́ўе

**clip¹** [klɪp] *n.* **1.** заціска́чка, сашчэ́пка; **a paper clip** канцыля́рская сашчэ́пка **2.** *tech.* скаба́; заціскны́я кле́шчы; абцугі́ **3.** кліпс

**clip²** [klɪp] *v.* **1.** сашчапля́ць **2.** заціска́ць

**clip³** [klɪp] *n.* **1.** стры́жка (*валасоў, шэрсці*) **2.** *ifml* мо́цны ўдар; **give smb. a clip** даць каму́-н. кухталя́/грымака́

**clip⁴** [klɪp] *v.* **1.** стры́гчы, абраза́ць (*нажніцамі або ножнамі*); **clip an article from a newspaper** вы́разаць арты́кул з газе́ты; **clip sheep** стры́гчы аве́чак **2.** прабіва́ць, кампасці́раваць (*білет*) **3.** *ling.* скарача́ць (*словы*) **4.** *infml* уда́рыць, вы́цяць кулако́м, даць кухталя́

**clipped** [klɪpt] *adj.* **1.** падстры́жаны; падрэ́заны; вы́разаны; скаро́чаны **2.** адры́вісты, выра́зны (*пра маўленне*)

**clipper** [ˈklɪpə] *n.* клі́пер, быстрахо́днае па́руснае су́дна

**clippers** [ˈklɪpəz] *n. pl.* нажні́цы, но́жны; куса́чкі

**clipping** [ˈklɪpɪŋ] *n.* вы́разка з газе́ты або́ часо́піса

**clique** [kli:k] *n.* клі́ка

**cloak** [kləʊk] *n.* **1.** плашч, ма́нтыя **2.** *перан.* по́крыва; ма́ска

**cloakroom** [ˈkləʊkrʊm] *n.* **1.** гардэро́б, раздзява́льня **2.** *BrE* туале́т

**clock** [klɒk] *n.* гадзі́ннік (*насценны, настольны, вежавы*); *The clock is fast/slow.* Гадзіннік спяшаецца/адстае; **put the clock forward/back** переве́сці стрэ́лкі гадзі́нніка ўпе́рад/наза́д; **wind (up) a clock** заве́сці гадзі́ннік; **work against the clock** працава́ць ху́тка, каб ско́нчыць рабо́ту датэрміно́ва; **work around/round the clock** працава́ць уве́сь дзень і ўсю ноч/су́ткі

**clockwise** [ˈklɒkwaɪz] *adv.* па хо́ду гадзі́ннікавай стрэ́лкі

**clockwork** [ˈklɒkwɜ:k] *n.* гадзі́ннікавы механі́зм; **clockwork toys** завадны́я ца́цкі; *Everything went like clockwork.* Усё ішло гладка.

**clog¹** [klɒg] *n.* чараві́к (*на драўлянай падэшве*); драўля́ны чараві́к

**clog²** [klɒg] *v.* **1.** забру́джваць, засме́чваць, засо́рваць, забіва́ць; **clog pipes** забіва́ць тру́бы **2.** засме́чвацца; забру́джвацца, забіва́цца; быць набі́тым/забі́тым (*чым-н.*); *The road was clog-*

*ged with cars.* Дарога была забіта машынамі. **3. : clogged nose** зало́жаны нос

**cloister** [ˈklɔɪstə] *n.* **1.** кры́тая арка́да **2.** манасты́р, кля́штар

**clone**[1] [kləʊn] *n. biol.* клон (*таксама перан.*); *bot.* раслі́на, яка́я размнажа́ецца вегетаты́ўным спо́сабам

**clone**[2] [kləʊn] *v. bot.* размнажа́цца вегетаты́ўным спо́сабам

**close**[1] [kləʊs] *n.* кане́ц, завяршэ́нне, заканчэ́нне, сканчэ́нне; закрыццё; **at the close of the day** у канцы́ дня; **at the close of one's life** на ско́не жыцця́; **come/draw to a close** ско́нчыцца; **bring smth. to a close** ско́нчыць што-н.

**close**[2] [kləʊs] *adj.* **1.** блі́зкі, недалёкі, які́ знахо́дзіцца на каро́ткай адле́гласці; **close combat** блі́жні/рукапа́шны бой; **close proximity** непасрэ́дная блі́зкасць; *The house is close to the station.* Дом знаходзіцца недалёка ад вакзала. **2.** блі́зкі; це́сны; **close cooperation** це́снае супрацо́ўніцтва; **a close friend** блі́зкі ся́бра; **a close resemblance** вялі́кае падабе́нства; **in close contact** у це́снымканта́кце **3.** шчы́льны, кампа́ктны; ча́сты; **close stitches** ча́стыя шыўкі́; **close writing** дро́бны/шчы́льны по́чырк **4.** стара́нны, пі́льны; стро́гі; **close analysis** падрабя́зны ана́ліз; **a close translation** дакла́дны перакла́д **5.** ця́жкі (*пра паветра*), ду́шны **6.** закры́ты, це́сны ♦ **a close shave** *infml* на валасо́к (*ад непрыемнасці*)

**close**[3] [kləʊz] *v.* **1.** зачыня́ць; зачыня́цца; закрыва́ць; закрыва́цца; **close a book** заго́ртваць кні́гу; **close a door** зачыня́ць дзве́ры; **close one's eyes** заплю́шчваць во́чы; *The window won't close.* Акно не зачыняецца. **2.** закрыва́ць, зака́нчваць, спыня́ць (*сход, мітынг і да т.п.*) **3.** змыка́ць; **close the ranks** змыка́ць рады́, шэ́рагі ♦ **a closed book** вялі́кая та́йна

**close down** [ˌkləʊzˈdaʊn] *phr.v.* закрыва́ць; закрыва́цца (*пра прадпрыемства*)

**close in** [ˌkləʊzˈɪn] *phr.v.* наблiжа́цца; апуска́цца; аху́тваць; скарача́цца; *The days are closing in.* Дні скарачаюцца; *The mist closed in upon us.* Нас ахутаў туман.

**close**[4] [kləʊs] *adv.* **1.** блі́зка; **follow smb. close** ісці́ за кім-н. па пя́тах **2.** ко́ратка; **cut one's hair close** ко́ратка пастры́гчыся; ♦ **close at hand** блі́зка; пад руко́й, руко́й пада́ць; **close by** по́бач; **close to** каля́, ля; **close (up) on** прыблі́зна, пры́кладна, ама́ль што

**closely** [ˈkləʊsli] *adv.* **1.** блі́зка; **resemble smb. closely** быць ве́льмі падо́бным да каго́-н. **2.** це́сна, шчы́льна; **closely connected** це́сна звя́заны **3.** ува́жліва, пі́льна; **look closely at smb**. пі́льна глядзе́ць на каго́-н., угляда́цца ў каго́-н.

**closeness** [ˈkləʊsnəs] *n.* **1.** блі́зкасць **2.** духата́, спёртасць **3.** шчы́льнасць

**closet**[1] [ˈklɒzɪt] *n.* **1.** камо́ра, камо́рка **2.** сце́нная ша́фа

**closet**[2] [ˈklɒzɪt] *adj.* скры́ты; схава́ны, та́йны, тае́мны, патае́мны; **a closet fascist** замаскірава́ны фашы́ст

**close-up** [ˈkləʊsʌp] *n.* здымак буйны́м пла́нам

**closing** [ˈkləʊzɪŋ] *adj.* заклю́чны; **a closing speech** заклю́чнае сло́ва, заклю́чная прамо́ва

**closing switch** [ˈkləʊzɪŋ ˌswɪtʃ] *n. tech.* выключа́льнік, рубі́льнік

**closure** [ˈkləʊʒə] *n.* закрыццё; завяршэ́нне

**clot**[1] [klɒt] *n.* **1.** згу́стак, камя́к **2.** *med.* тромб **3.** *BrE, infml* ду́рань, ёлупень, до́ўбень, абэ́лтух

**clot**[2] [klɒt] *v.* згушча́цца; зго́ртвацца; ствaро́жвацца, згуса́ць

**cloth** [klɒθ] *n.* **1.** ткані́на, матэ́рыя, матэрыя́л; кава́лак ткані́ны **2.** сукно́ **3.** абру́с, насто́льнік

**clothe** [kləʊð] *v.* **(clothed**; *fml* **clad) 1.** апрана́ць, адзява́ць; забяспе́чваць во́праткай; **feed and clothe one's family** кармі́ць і апрана́ць сям'ю́; **warmly clothed** цёпла апра́нуты **2.** афармля́ць, выка́зваць (*думкі*)

**clothes** [kləʊðz] *n. pl.* адзе́нне, адзе́жа, во́пратка; **beautiful clothes** прыго́жая адзе́жа/во́пратка, прыго́жае адзе́нне; **spend a lot of money on clothes** тра́ціць шмат гро́шай на адзе́нне

**clothes line** [ˈkləʊðzlaɪn] *n.* вяро́ўка для бялі́зны

**clothes peg** [ˈkləʊðzpeg] *n.* прышчэ́пка для бялі́зны

**clothing** [ˈkləʊðɪŋ] *n.* адзе́нне, во́пратка; **articles of clothing** прадме́ты адзе́ння

**cloud**[1] [klaʊd] *n.* во́блака; хма́ра; **a cloud of smoke/dust/steam** во́блака ды́му/пы́лу/па́ры; **covered with clouds** пакры́ты абло́камі; **hidden by clouds** закры́ты, засло́нены абло́камі ♦ **every cloud has a silver lining** ≅ і ў дрэ́нным мо́жна знайсці́ не́шта до́брае; **under a cloud** ≅ у няла́сцы, у нялю́басці, у нямі́ласці

**cloud**[2] [klaʊd] *v.* **1. (over)** нахма́рвацца, пакрыва́цца абло́камі/хма́рамі **2.** азмро́чваць; азмро́чвацца

**cloudless** [ˈklaʊdləs] *adj.* бязво́блачны, бясхма́рны

**cloudy** [ˈklaʊdi] *adj.* **1.** пакры́ты абло́камі/хма́рамі **2.** каламу́тны, му́тны; тума́нны; цьмя́ны

**clout**[1] [klaʊt] *n. infml* **1.** мо́цны ўдар (*рукой*), аплявýха, по́ўха **2.** сі́ла (*ударная або прабіўная*); уплы́ў (*палітычны*); **exercise diplomatic clout** ажыццяўля́ць дыпламаты́чны ціск; **fi-**

**nancial/political clout** фіна́нсавы/палітычны ціск

**clout**[2] [klaʊt] *v.* **1.** *infml* мо́цна ўда́рыць (*рукой або кулаком*); даць аплявуху/поўху **2.** *infml* мо́цна біць па мячы́ (*бейсбол*)

**clove** [kləʊv] *n.* **1.** гвазды́ка (*прыправа*) **2.** до́лька/зубо́к часнаку́

**clover** [ˈkləʊvə] *n.* канюшы́на ♦ **be in clover** *infml* ≅ кача́цца як сыр у ма́сле, жыць у камфо́рце

**clown**[1] [klaʊn] *n.* кло́ўн, бла́зан, штука́р, камедыя́нт

**clown**[2] [klaʊn] *v.* дуры́цца; стро́іць ду́рня

**club**[1] [klʌb] *n.* **1.** дубі́на **2.** *sport* клю́шка, біта́ **3.** прыкла́д (*вінтоўкі, стрэльбы*) **4.** *pl.* трэ́фы (*пра карты*)

**club**[2] [klʌb] *v.* біць дубі́нкай, біць прыкла́дам (*вінтоўкі*)

**club**[3] [klʌb] *n.* клуб; памяшка́нне клу́ба; **a tennis club** тэ́нісны клуб

**club**[4] [klʌb] *v.* **: club together** збіра́цца; скла́двацца, склада́цца, рабі́ць (*што-н.*) у скла́дчыну

**cluck**[1] [klʌk] *n.* куда́хтанне, квахта́нне

**cluck**[2] [klʌk] *v.* куда́хтаць, квахта́ць

**clue** [kluː] *n.* ключ для разга́дкі ♦ **not have a clue** *infml* не мець ні́якага ўяўле́ння (*аб чым-н.*)

**clump**[1] [klʌmp] *n.* гру́па (*дрэў*), ку́па

**clump**[2] [klʌmp] *v.* **1.** ця́жка ступа́ць **2. : clump together** збіра́ць у гру́пу; садзі́ць/саджа́ць ку́памі/ку́пкамі

**clumsily** [ˈklʌmzɪli] *adv.* **1.** нязгра́бна, няўклю́дна **2.** гру́ба, тапо́рна

**clumsiness** [ˈklʌmzɪnəs] *n.* нязгра́бнасць, няўклю́днасць; няспры́тнасць; няўме́ласць

**clumsy** [ˈklʌmzi] *adj.* **1.** нязгра́бны, няўклю́дны, нясkла́дны, нехлямя́жы **2.** няспры́тны, няўме́лы **3.** гру́бы, тапо́рны **4.** бестакто́ўны, нетакто́ўны; **a clumsy remark** недалíка́тная заўва́га

**clung** [klʌŋ] *past, p.p.* → **cling**

**cluster** [ˈklʌstə] *n.* **1.** гро́нка, кісць, пучо́к **2.** гру́па; гурт; ку́па **3.** *comput.* кла́стар **4. :** *ling.* **a consonant cluster** збег зы́чных

**clutch**[1] [klʌtʃ] *n.* **1.** хва́тка, сціска́нне; **escape from smb.'s clutches** вы́рвацца з чыі́х-н. кіпцюро́ў; **fall into smb.'s clutches** тра́піць у чые́-н. ла́пы **2.** *tech.* счапле́нне

**clutch**[2] [klʌtʃ] *v.* **(at) 1.** схапі́ць; сці́снуць, заці́снуць, прыці́снуць **2.** схапі́цца, ухапі́цца ♦ **a drowning man will clutch at a straw** хто то́піцца, (і) за салó́мінку хо́піцца; ≅ калі́ то́пішся, дык за бры́тву ўхо́пішся

**clutter**[1] [ˈklʌtə] *n.* беспара́дак, бязла́ддзе, непара́дак, хао́с

**clutter**[2] [ˈklʌtə] *v.* прыво́дзіць у беспара́дак; нава́льваць; *The table was cluttered up with books.* Стол быў завалены кнігамі.

**cm** (*пісьмовае скар. ад* **centimetre**) см., сантыме́тр

**CNN** [ˌsiːenˈen] (*скар. ад* **Cable News Network**) Сі-Эн-Эн

**Co.** [kəʊ] (*скар. ад* **company**) (*у назвах кампаній*); **James Smith & Co.** Джэймс Сміт і кампа́нія

**c/o** (*пісьмовае скар. ад* **care of**) (*ставіцца на паштовых адпраўленнях перад адрасам, калі карэспандэнцыя накіравана па месцы часовага пражывання*) на а́драс каго́-н., праз каго́-н.; *Send it to John Smith c/o Jane Smith.* Пашліце гэта Джону Сміту на адрас Джэйн Сміт.

**coach**[1] [kəʊtʃ] *n.* **1.** *BrE* міжгаро́дні аўто́бус **2.** *BrE* пасажы́рскі ваго́н **3.** карэ́та, экіпа́ж **4.** *AmE* са́мыя та́нныя ме́сцы ў самалёце або́ цягнікý

**coach**[2] [kəʊtʃ] *n.* **1.** *sport* трэ́нер, інстру́ктар; **a national coach** трэ́нер збо́рнай кама́нды краі́ны **2.** *infml* рэпеты́тар (*які рыхтуе да экзаменаў*)

**coach**[3] [kəʊtʃ] *v.* **1.** *infml* нашпіго́ўваць/нацягваць да экза́мена, рэпеці́раваць **2.** займа́цца з рэпеты́тарам **3.** трэніра-ва́ць, рыхтава́ць да спабо́рніцтваў

**coal** [kəʊl] *n.* **1.** (*каменны*) ву́галь **2.** *pl.* **coals** вуга́лі, вугалькі́, вуго́лле ♦ **carry/take coals to Newcastle** вазі́ць ву́галь у Ньюка́сл; ≅ вазі́ць ка́флю ў Нясві́ж (*рабіць тое, што не мае сэнсу*)

**coalition** [ˌkəʊəˈlɪʃn] *n.* каалі́цыя

**coalmine** [ˈkəʊlmaɪn] *n.* каменнаву́гальная ша́хта

**coarse** [kɔːs] *adj.* **1.** гру́бы, тапо́рны; про́ста збро́блены; няўме́лы, нязгра́бны; неапрацава́ны; **coarse food** гру́бая е́жа **2.** няве́тлівы, нявы́хаваны, некульту́рны, рэ́зкі; **coarse manners** гру́быя мане́ры **3.** вульга́рны, непрысто́йны; **a coarse joke** непрысто́йны жарт

**coast**[1] [kəʊst] *n.* (марскі́) бе́раг; узбярэ́жжа; **a trip to the coast** паездка на ўзбярэ́жжа мо́ра ♦ **the coast is clear** *infml* шлях свабо́дны, небяспе́ка міну́ла

**coast**[2] [kəʊst] *v.* **1.** спуска́цца з гары́ свабо́дным ко́лам **2.** е́хаць нака́там **3. (through)** лёгка дабіва́цца по́спеху **4. (along)** рабі́ць (*што-н.*) без вы́сілкаў

**coastal** [ˈkəʊstl] *adj.* берагавы́, прыбярэ́жны, узбярэ́жны; **coastal waters** прыбярэ́жныя во́ды

**coaster** [ˈkəʊstə] *n.* **1.** падстáўка (*для шклянкі, бутэлькі і да т.п.*), паддóн **2.** кабатáжнае сýдна
**coastguard** [ˈkəʊstgɑːd] *n.* берагавáя вáрта
**coastline** [ˈkəʊstlaɪn] *n.* берагавáя лíнія
**coat** [kəʊt] *n.* **1.** палітó **2.** пінжáк; **a coat and skirt** *dated* жанóчы касцю́м **3.** шэрсць, поўсць, фýтра, шкýра (*жывёлы*); **cast its coat** ліня́ць (*пра жывёлу*) **4.** пóкрыва, пакрыццё; слой, пласт; **a coat of dust/paint** слой пы́лу/фáрбы ♦ **cut one's coat according to one's cloth** жыць па срóдках
**coating** [ˈkəʊtɪŋ] *n.* слой, пласт (*фарбы*); пóкрыва, пакрыццё
**coat of arms** [ˌkəʊtəvˈɑːmz] *n.* герб
**co-author** [ˌkəʊˈɔːθə] *n.* саáўтар
**coax** [kəʊks] *v.* **1.** угавóрваць, упрóшваць (*каго-н. зрабіць што-н.*); улáшчваць **2.** лісліˊвіць, дабівáцца (*чаго-н.*) з дапамóгай лісліˊвасці абó лáскі; **coax a secret out of smb.** вы́пытаць у кагó-н. сакрэ́т; **coax smb. out of his money** вы́маніць, вы́мантачыць у кагó-н. грóшы
**cobalt** [ˈkəʊbɔːlt] *n.* кóбальт; **cobalt blue** кóбальтавая сінь (*фарба*)
**cobbled** [ˈkɒbld] *adj.* брукавáны, вы́брукаваны, вы́машчаны; **a cobbled street** брукавáная вýліца, брукавáнка
**cobblestone** [ˈkɒblstəʊn] *n.* кáмень (*якім брукуюць, мосцяць вуліцы, дарогі, плошчы*)
**cobbler** [ˈkɒblə] *n.* **1.** *dated* шавéц, які́ займáецца рамóнтам абýтку **2.** *derog.* партáч **3.** **:** *pl.* **cobblers** *BrE, infml* бязглýздзіца, лухтá
**cobra** [ˈkəʊbrə] *n. zool.* кóбра
**cobweb** [ˈkɒbweb] *n.* **1.** павуці́на; павуці́нне **2.** пáстка ♦ **blow/clear the cobwebs away** правéтрыцца
**coca** [ˈkəʊkə] *n. bot.* кóка (*расліна*)
**cocaine** [kəʊˈkeɪn] *n.* какаі́н
**cock**[1] [kɒk] *n.* **1.** пéвень; (*у састаўных назоўніках*) самéц; **a cock turkey** індыќ; **a cock duck** кáчар **2.** курóк ♦ **a cock and bull story** небылі́ца, вы́думка
**cock**[2] [kɒk] *v.* **:** ♦ **cock an ear/an eye at smth./smb.** настры́ць вýшы; насцеражы́цца, насцярóжыцца
**cockchafer** [ˈkɒkˌtʃeɪfə] *n. zool.* хрушч, мáйскі жук
**cockerel** [ˈkɒkərəl] *n.* пéўнік, малады́ пéвень
**cocker spaniel** [ˌkɒkəˈspænjəl] *n.* (*таксама* **cocker**) кóкер-спаніэ́ль (*паляўнічы сабака*)
**cockle** [ˈkɒkl] *n.* **1.** ядóмы/прыдáтны для яды́ малю́ск **2.** рáкавіна малю́ска ♦ **warm/delight/cheer/rejoice the cockles of one's heart** рáдаваць сэ́рца
**cockney** [ˈkɒkni] *n.* **1.** кóкні, карэ́нны жыхáр усхóдняй чáсткі Лóндана **2.** кóкні (*сацыяльны лонданскі дыялект*)
**cockpit** [ˈkɒkpɪt] *n.* кабі́на (*пілота або гоншчыка*)
**cockroach** [ˈkɒkrəʊtʃ] *n.* прусáк, таракáн
**cocktail** [ˈkɒkteɪl] *n.* males кактэ́йль; **fruit cocktail** фруктóвы салáт; **prawn cocktail** закýска з вýстрыцаў з сóусам
**cocky** [ˈkɒki] *adj. infml* дзёрзкі, самаўпэ́ўнены, нахáбны
**cocoa** [ˈkəʊkəʊ] *n.* **1.** какáвавы парашóк **2.** какáва (*напой*)
**coconut** [ˈkəʊkənʌt] *n.* какóс, какóсавы арэ́х
**cocoon** [kəˈkuːn] *n.* кóкан
**COD** [ˌsiːəʊˈdiː] **1.** (*скар. ад* **cash on delivery**, *AmE* **collect on delivery**) накладны́ плацéж **2. The Concise Oxford Dictionary** Карóткі óксфардскі слóўнік (*англійскай мовы*)
**cod** [kɒd] *n. zool.* траскá
**code** [kəʊd] *n.* **1.** кóдэкс, статýт, збор закóнаў; **the civil code** грамадзя́нскі кóдэкс; **the criminal/penal code** крымінáльны кóдэкс **2.** закóны, пры́нцыпы; **a code of honour** закóны гóнару; **a high moral code** кóдэкс высóкай марáлі; **live up to the code of the school** дзéйнічаць у адпавéднасці з прáвіламі павóдзін шкóльнікаў **3.** код, шыфр, сістэ́ма сігнáлаў; **a five-letter code** код з пяці́ лі́тар; **the Morse code** áзбука Мóрзэ
**coded** [ˈkəʊdɪd] *adj.* зашыфравáны, закадзі́раваны
**coding** [ˈkəʊdɪŋ] *n.* **1.** кадзі́раванне, шыфравáнне **2.** індэксáцыя, маркіравáнне
**co-education** [ˌkəʊedʒʊˈkeɪʃn] *n.* сумéснае навучáнне асóб мужчы́нскага і жанóчага пóлу
**co-educational** [ˌkəʊedʒʊˈkeɪʃnl] *adj.* які́ аднóсіцца да сумéснага навучáння; з сумéсным навучáннем
**coequal** [ˌkəʊˈiːkwəl] *adj.* рóўны (*з іншым*)
**coerce** [kəʊˈɜːs] *v. fml* вымушáць, прымушáць, змýшаць
**coercion** [kəʊˈɜːʃn] *n.* прымýс, прымушэ́нне
**coercive** [kəʊˈɜːsɪv] *adj.* прымусóвы; **coercive measures/methods** мéры/мéтады прымýсу
**coexist** [ˌkəʊɪgˈzɪst] *v.* **(with)** суіснавáць
**coexistence** [ˌkəʊɪgˈzɪstəns] *n.* суіснавáнне
**coffee** [ˈkɒfi] *n.* кáва, кóфе
**coffee shop** [ˈkɒfiˌʃɒp] *n.* кавя́рня, кафэ́; буфéт
**coffee table** [ˈkɒfiˌteɪbl] *n.* ні́зкі стóлік (*у гасцінай*)
**coffin** [ˈkɒfɪn] *n.* трунá, дамаві́на
**cog** [kɒg] *n.* зубéц (*кола*) ♦ **a cog in the machine/wheel** «ві́нцік»; драбязá

**cogged** [kɒgd] *adj.* зубча́сты
**cognac** [ˈkɒnjæk] *n.* канья́к
**cognitive** [ˈkɒgnətɪv] *adj.* кагніты́ўны, пазнава́льны; **cognitive linguistics** кагніты́ўная лінгві́стыка
**cogwheel** [ˈkɒgwiːl] *n. tech.* зубча́стае ко́ла
**coherence** [kəʊˈhɪərəns] *n.* **1.** скла́днасць, звя́знасць, паслядо́ўнасць **2.** кагерэ́нтнасць
**coherent** [kəʊˈhɪərənt] *adj.* **1.** звя́зны, лагі́чна паслядо́ўны **2.** кагерэ́нтны
**cohesion** [kəʊˈhiːʒn] *n.* **1.** су́вязь; згóда; згуртава́насць; **economic cohesion** эканамі́чная інтэгра́цыя **2.** *ling.* кагéзія
**cohesive** [kəʊˈhiːsɪv] *adj.* **1.** здóльны да счаплéння **2.** звя́заны **3.** згуртава́ны **4.** кагезі́йны
**cohort** [ˈkəʊhɔːt] *n.* кагóрта
**coil**[1] [kɔɪl] *n.* **1.** вітóк, кóльца; бу́хта (*каната, провада*) **2.** *electr.* шпу́ля, шпу́лька **3.** *tech.* змеяві́к (*таксама* **coil pipe**); **a coil antenna** ра́мачная антэ́на; **a coil spring** спіра́льная спружы́на
**coil**[2] [kɔɪl] *v.* **1.** скру́чваць кóльцам, спіра́ллю (*вяроўку, дрот*) **2.** намóтваць, абмóтваць **3.** скру́чвацца, абвіва́цца (*таксама* **coil round**)
**coin**[1] [kɔɪn] *n.* манéта ♦ **pay smb. back in his own coin** адплаці́ць/плаці́ць каму́-н. той са́май манéтай
**coin**[2] [kɔɪn] *v.* **1.** ствара́ць нóвыя слóвы, вы́разы **2.** чака́ніць манéту
**coinage** [ˈkɔɪnɪdʒ] *n.* **1.** чака́нка (*манет*); манéтная сістэ́ма; **decimal coinage** дзесяткóвая манéтная сістэ́ма **2.** металі́чныя грóшы **3.** *ling.* стварэ́нне нóвых слоў і вы́разаў; **words of modern coinage** неалагі́змы, наватвóры
**coincide** [ˌkəʊɪnˈsaɪd] *v.* **(with)** супада́ць, адпавяда́ць, быць аднóлькавымі; **coincide with the facts** адпавяда́ць фа́ктам; *Our tastes coincide.* Нашы густы супадаюць.
**coincidence** [kəʊˈɪnsɪdəns] *n.* **1.** супадзéнне, адпавéднасць; **coincidence of space/time/ number** супадзéнне ў прастóры/ча́се/кóлькасці **2.** выпадкóвы збег акалі́чнасцей
**coke** [kəʊk] *n.* **1**. *infml* = **cocaine 2.** кокс (*вугаль*)
**Col.** (*пісьмовае скар. ад* **Colonel**) палкóўнік
**colander** [ˈkʌləndə] *n.* друшля́к
**cold**[1] [kəʊld] *n.* **1.** хóлад; **go out into the cold** выхóдзіць на хóлад **2.** прасту́да; **a cold in the head** на́смарк; **catch (a) cold** прастудзі́цца; **have (a) cold** быць прасту́джаным ♦ **be (out) in the cold** быць пакі́нутым убаку́
**cold**[2] [kəʊld] *adj.* **1.** халóдны; **a cold wind** сцюдзёны вéцер; *I am* (*feeling*) *cold.* Мне холадна. **2.** нявéтлівы, нявéтлы; **a cold welcome** халóдны/непрывéтны прыём; **give smb. a cold look** паглядзéць на кагó-н. нявéтліва/непрыя́зна **3.** абыя́кавы, безува́жны, безудзéльны **4.** спакóйны, ураўнава́жаны; **cold comfort** сла́бая ўцéха; **cold reason** спакóйная разва́жнасць; **leave smb. cold** не ўзру́шыць, не крану́ць; пакі́нуць кагó-н. абыя́кавым; **take cold survey of the situation** спакóйна ацані́ць станóвішча ♦ **the cold war** халóдная вайна́; **get cold feet** *infml* здрэ́йфіць, збая́цца; **give the cold shoulder to smb.** *infml* прыма́ць кагó-н. непрывéтна/непрыя́зна
**cold-blooded** [ˌkəʊldˈblʌdɪd] *adj.* **1.** бязлі́тасны; лю́ты, жóрсткі; **cold-blooded murder** наўмы́снае забóйства **2.** абыя́кавы; нячу́лы **3.** халаднакрóўны (*пра жывёл*)
**cold cream** [ˈkəʊldkriːm] *n.* кальдкрэ́м
**coldly** [ˈkəʊldli] *adv.* **1.** хóладна **2.** нявéтліва, су́ха, з халадкóм **3.** спакóйна, ураўнава́жана
**coldness** [ˈkəʊldnəs] *n.* **1.** хóлад **2.** халóднасць, су́хасць, нявéтласць, непрывéтлівасць; **the coldness of smb.'s reception** халóднасць прыёму
**collaborate** [kəˈlæbəreɪt] *v.* **(with) 1.** супрацóўнічаць **2.** *derog.* супрацóўнічаць з вóрагам
**collaboration** [kəˌlæbəˈreɪʃn] *n.* **(with) 1.** супрацóўніцтва; **work in collaboration with smb.** супрацóўнічаць з кім-н. **2.** *derog.* супрацóўніцтва з вóрагам, здра́дніцтва, здра́да
**collaborator** [kəˈlæbəreɪtə] *n.* **1.** супрацóўнік **2.** калабарацыяні́ст; той, хто супрацóўнічае з акупа́нтамі; здра́днік; здра́дніца
**collage** [ˈkɒlɑːʒ] *n.* кала́ж
**collagen** [ˈkɒlədʒən] *n. biol.* калагéн
**collapse**[1] [kəˈlæps] *n.* **1.** падзéнне; абва́л; **the collapse of the roof** абва́л да́ху **2.** упа́дак сіл; кала́пс **3.** крушэ́нне, права́л (*пра планы*, *надзеі*)
**collapse**[2] [kəˈlæps] *v.* **1.** абвалі́цца, абру́шыцца **2.** звалі́цца, злéгчы; упа́сці ду́хам **3.** пацярпéць крах, правалі́цца (*пра планы*) **4.** скла́двацца, складáцца; разбіра́цца
**collapsible** [kəˈlæpsəbl] *adj.* складны́; разбóрны; адкідны́; **a collapsible boat** разбóрная лóдка; **a collapsible chair** складнóе крэ́сла; **a collapsible seat** адкіднóе крэ́сла
**collar** [ˈkɒlə] *n.* **1.** каўнéр, каўнéрык **2.** ашы́йнік, нашы́йнік, абрóжак **3.** хаму́т **4.** *tech.* уту́лка
**colleague** [ˈkɒliːg] *n.* калéга, саслужы́вец; саслужы́віца
**collect** [kəˈlekt] *v.* **1.** збіра́ць, сабра́ць, падабра́ць; **collect together** збіра́цца, сабра́цца **2.** калекцыяні́раваць **3.** забра́ць; **collect a child from school** забра́ць дзіця́ са шкóлы (*зайсці па яго*) ♦ **collect oneself** авалóдаць сабóй, сабра́цца; **collect one's thoughts** сабра́цца з ду́мкамі

**collected** [kəˈlektɪd] *adj.* **1.** сабра́ны; **collected works** збор тво́раў (аднаго́ а́ўтара) **2.** стры́маны, вы́трыманы, спако́йны

**collection** [kəˈlekʃn] *n.* **1.** збор; **a collection of poems** збо́рнік ве́ршаў **2.** збіра́нне; **the collection of mail** выма́нне лісто́ў/пі́сьмаў з пашто́вай скры́нкі **3.** кале́кцыя **4.** грашо́вы збор

**collective** [kəˈlektɪv] *adj.* калекты́ўны, суме́сны; **a collective agreement** калекты́ўны дагаво́р, калекты́ўная дамо́ва; **collective security** калекты́ўная бяспе́ка

**collector** [kəˈlektə] *n.* **1.** збо́ршчык; **a ticket collector** кантралёр **2.** калекцыяне́р

**college** [ˈkɒlɪdʒ] *n.* **1.** кале́дж **2.** універсітэ́цкі кале́дж **3.** кале́гія

**collide** [kəˈlaɪd] *v.* сту́кнуцца, уда́рыцца адно́ аб адно́; сутыкну́цца; *Our interests collided.* Нашы інтарэсы сутыкнуліся.

**collider** [kəˈlaɪdə] *n. tech.* кала́йдар, паскара́льнік часці́ц

**collie** [ˈkɒli] *n.* ко́лі, шатла́ндская аўча́рка

**collision** [kəˈlɪʒn] *n.* калі́зія, сутыкне́нне, канфлі́кт

**collocate** [ˈkɒləkeɪt] *v. ling.* спалуча́цца

**collocation** [ˌkɒləˈkeɪʃn] *n. ling.* спалуча́льнасць; спалучэ́нне (*слоў*); **a dictionary of collocations** сло́ўнік спалуча́льнасці; сло́ўнік фразеалагі́змаў

**colloquial** [kəˈləʊkwiəl] *adj.* размо́ўны

**colloquy** [ˈkɒləkwi] *n.* **1.** афіцы́йная размо́ва; абмеркава́нне; канферэ́нцыя **2.** дыяло́г

**cologne** [kəˈləʊn] *n.* адэкало́н

**Cologne water** [kəˈləʊnˌwɔːtə] = **cologne**

**colon** [ˈkəʊlən] *n.* **1.** *ling.* двукро́п'е **2.** *anat.* абадо́чная кі́шка

**colonel** [ˈkɜːnl] *n.* палко́ўнік

**colonial** [kəˈləʊniəl] *adj.* каланія́льны

**colonialism** [kəˈləʊniəlɪzəm] *n.* каланіялі́зм

**colonist** [ˈkɒlənɪst] *n.* калані́ст, пасяле́нец

**colonize** [ˈkɒlənaɪz] *v.* каланізава́ць

**colony** [ˈkɒləni] *n.* кало́нія

**color** [ˈkʌlə] *AmE* = **colour**

**colossal** [kəˈlɒsl] *adj.* **1.** каласа́льны, грандыёзны, велічэ́зны, велізáрны, гіга́нцкі **2.** *infml* надзвыча́йны, цудо́ўны

**colour**[1] [ˈkʌlə] *n.* **1.** ко́лер; тон; адце́нне; **all colours of the rainbow** усе́ ко́леры вясёлкі; **the colour question** ра́савая прабле́ма **2.** фа́рба **3.** ко́лер тва́ру; *His face was drained of colour.* Ён нядобра сябе адчуваў. **4.** калары́т **5.** *pl.* **colours** сцяг, флаг; **join the colours** пайсці́ ў а́рмію/у во́йска ♦ **high colour** румя́нец; **with flying colours** перамо́жна

**colour**[2] [ˈkʌlə] *v.* **1.** размалёўваць; афарбо́ўваць **2.** афарбо́ўвацца, мяня́ць ко́лер; *The leaves start to colour in autumn.* Увосень лісце пачынае жаўцець/чырванець. **3.** чырване́ць (*пра твар*) **4.** накла́дваць адбітак

**colour-blind** [ˈkʌləblaɪnd] *adj.* **1.** які́ не распазнае́/не адро́знівае ко́лераў **2.** які́ не ма́е ра́савых забабо́наў/пры́мхаў; **a colour-blind society** грама́дства, яко́е заснава́на на ро́ўнасці рас і на́цый

**coloured** [ˈkʌləd] *adj.* **1.** афарбава́ны; размаля-ва́ны **2.** каляро́вы; **a coloured film** каляро́вы фільм

**colourful** [ˈkʌləfəl] *adj.* маляўні́чы, я́ркі

**colouring** [ˈkʌlərɪŋ] *n.* **1.** фарбава́льнае рэ́чыва **2.** ко́лер (*твару, валасоў*) **3.** афарбо́ўка

**colourless** [ˈkʌlələs] *adj.* **1.** бяско́лерны **2.** бескаляро́вы, бле́дны; нецiка́вы

**colt** [kəʊlt] *n.* **1.** жарабя́, жарабё **2.** *BrE* навічо́к (*у спорце*)

**column** [ˈkɒləm] *n.* **1.** кало́на; **a tall column** высо́кая кало́на **2.** слуп, слупо́к; **spinal column** пазвано́чны слуп, пазвано́чнік; **a column of figures** слупо́к лі́чбаў; **a column of smoke** слуп ды́му; **mercury column** рту́тны слупо́к **3.** кало́нка, слупо́к (*у газеце*) **4.** кало́на людзе́й або́ машы́н; **a column of soldiers** кало́на салда́т

**columnist** [ˈkɒləmnɪst] *n.* журналі́ст (*які вядзе пастаянную калонку ў газеце*), калумні́ст

**coma** [ˈkəʊmə] *n.* ко́ма; **be in a coma** быць у ко́ме

**comb**[1] [kəʊm] *n.* **1.** грэ́бень, грабяне́ц, грабе́ньчык; **a wide-toothed/close-toothed comb** рэ́дкі/густы́ грэ́бень **2.** *textile* часа́лка **3.** со́ты; **comb honey** со́тавы мёд **4.** грэ́бень (*пеўня*); чубо́к (*птушкі*) **5.** грэ́бень (*хвалі*)

**comb**[2] [kəʊm] *v.* **1.** часа́ць, прычэ́сваць, расчэ́сваць, зачэ́сваць; **comb one's hair** расчэ́сваць валасы́; прычэ́свацца; **comb wool** часа́ць во́ўну **2.** *mil.* прачэ́сваць (*мясцовасць*)

**comb out** [ˌkəʊmˈaʊt] *phr. v.* право́дзіць чы́стку (*ва ўстанове і да т.п.*)

**combat** [ˈkɒmbæt] *n.* бой, бі́тва; **a single combat** адзінабо́рства, паяды́нак

**combatant** [ˈkɒmbətənt] *n.* бае́ц, змага́р

**combination** [ˌkɒmbɪˈneɪʃn] *n.* злучэ́нне, спалучэ́нне; камбіна́цыя; **a combination lock** сакрэ́тны замо́к

**combine**[1] [ˈkɒmbaɪn] *n.* сіндыка́т; аб'ядна́нне

**combine**[2] [kəmˈbaɪn] *v.* аб'ядно́ўваць; аб'ядно́ўвацца; спалуча́ць; спалуча́цца; камбінава́ць

**combine harvester** [ˌkɒmbaɪnˈhɑːvəstə] *n.* камба́йн

**combustion** [kəmˈbʌstʃən] *n.* згара́нне; **a combustion engine** рухаві́к уну́транага згара́ння

**come** [kʌm] *v.* **(came, come) 1.** прыхо́дзіць, прыязджа́ць **2.** ісці́, е́хаць; **come!** пайшлі́!; *I'm coming with you.* Я іду з вамі/з табой. **3.** набліжа́цца, падыхо́дзіць; **come nearer!** падыдзі́ бліжэ́й! **4.** дахо́дзіць, дасяга́ць; **come of age** дасягну́ць ста́лага ўзро́сту; **come to power** прыйсці́ да ўла́ды **5.** надыхо́дзіць, настава́ць, набліжа́цца; **come to an end** скóнчыцца; **come to know** спазна́ць; **come to nothing** звéсціся на нішто́; **things to come** бу́дучае, бу́дучыня; **in years to come** у бу́дучым; *It has come to stay.* Гэта надоўга. **6.** станаві́цца; **come undone** расшпі́львацца, развя́звацца **7.** здара́цца, адбыва́цца; **come true** збыва́цца, спра́ўджвацца; **come what may** а ўжо́ ж што бу́дзе; няха́й бу́дзе, што бу́дзе; што бу́дзе, то́е бу́дзе; **no harm will come to you** нічо́га дрэ́ннага з табо́ю не зда́рыцца; табé нічо́га не пагража́е **8.** з'яўля́цца, узніка́ць; *An idea came into my head./It came to me.* У мяне з'явілася/ўзнікла думка. **9.** пахо́дзіць, браць пача́так; *He comes from Minsk.* Ён (родам) з Мінска. ♦ **come and go** прыхо́дзіць і адыхо́дзіць, хадзі́ць сюды́ і туды́

**come about** [ˌkʌməˈbaʊt] *phr.v.* здара́цца, адбыва́цца

**come across** [ˌkʌməˈkr s] *phr.v.* **1.** стаць зразумéлым, прані́кнуць у свядо́масць **2.** напатка́ць, натра́піць

**come along** [ˌkʌməˈl ŋ] *phr.v.* **1.** з'яўля́цца **2.** ісці́ ра́зам з кім-н.; *Come along!* Пойдзем! Паспяшайся! **3.** паляпша́цца

**come apart** [ˌkʌməˈpɑːt] *phr.v.* разва́львацца, распада́цца

**come around** [ˌkʌməˈraʊnd] *phr.v.* апрыто́мнець, ачуня́ць, ачну́цца, апа́мятацца

**come back** [ˌkʌmˈbæk] *phr.v.* **1.** успаміна́цца **2.** вярта́цца ♦ **come back as wise as one went** пайсці́ ні з чым

**come by** [ˌkʌmˈbaɪ] *phr.v.* **1.** атрыма́ць, набы́ць, нажы́ць што-н. **2.** захо́дзіць куды́-н.

**come down** [ˌkʌmˈdaʊn] *phr.v.* **1.** па́даць, валі́цца; спада́ць **2.** разбура́цца **3.** змянша́цца, зніжа́цца **4.** пераходзіць па трады́цыі

**come forward** [ˌkʌmˈfɔːwəd] *phr.v.* **1.** вы́йсці ўпéрад **2.** прапанава́ць сваé паслу́гі, адгукну́цца **3.** паступа́ць у про́даж

**come in** [ˌkʌmˈɪn] *phr.v.* **1.** прыхо́дзіць, прыбыва́ць **2.** увахо́дзіць

**come off** [ˌkʌmˈɒf] *phr.v.* **1.** адшпі́львацца; зніма́цца, здыма́цца **2.** адрыва́цца (*пра гузік, дзвярную ручку і да т.п.*) **3.** сыхо́дзіць, схо́дзіць, зніка́ць (*пра пляму*); выпада́ць (*пра валасы, зубы*)

**come on** [ˌkʌmˈɒn] *phr.v.* набліжа́цца; з'яўля́цца ў прызна́чаны час/у сваю́ чаргу́ (*пра акцёра, гульца і да т.п.*)

**come out** [ˌkʌmˈaʊt] *phr.v.* **1.** з'яўля́цца, паяўля́цца; прыхо́дзіць **2.** выхо́дзіць (*з друку*) **3.** выяўля́цца, станаві́цца вядо́мым (*пра навіны, праўду і да т.п.*) **4.** страйкава́ць, бастава́ць

**come over** [ˌkʌmˈəʊvə] *phr.v.* **1. (to)** прыéхаць здалёк; зайсці́ ненадо́ўга **2.** авало́дваць, ахо́пліваць; уздзéйнічаць, уплыва́ць, рабі́ць уплы́ў; *I can't think what came over me.* Не ведаю, што на мяне найшло.

**come round** [ˌkʌmˈraʊnd] *phr.v.* **1.** захо́дзіць **2.** апрыто́мнець, ачуня́ць

**come through** [ˌkʌmˈθruː] *phr.v.* **1.** праніка́ць, прахо́дзіць наскро́зь, прасо́чвацца **2.** паспяхо́ва спраўля́цца

**come to** [ˌkʌmˈtuː] *phr.v.* апрыто́мнець

**come together** [ˌkʌmtəˈgeðə] *phr.v.* збіра́цца ра́зам, аб'ядно́ўвацца

**come up** [ˌkʌmˈʌp] *phr.v.* **1.** узыхо́дзіць, прараста́ць (*пра расліны*) **2.** устава́ць, узыхо́дзіць (*пра сонца*) **3.** здара́цца; з'яўля́цца, паяўля́цца **4.** узніка́ць **5. (with)** нагання́ць, зраўно́ўвацца **6. (to)** падыхо́дзіць; дахо́дзіць

**comedian** [kəˈmiːdiən] *n.* **1.** ко́мік, камеды́йны акцёр; камеды́йная актры́са **2.** а́ўтар камéдый, камедыёграф

**comedy** [ˈkɒmədi] *n.* камéдыя

**come on** [ˌkʌmˈɒn] *interj. infml* ану́!; ну дава́й!; *Come on! We don't have much time.* Варушыся! У нас мала часу; *Come on! Try once more.* Ну давай! Паспрабуй яшчэ раз.

**comet** [ˈkɒmɪt] *n.* камéта

**comfort**[1] [ˈkʌmfət] *n.* **1.** камфо́рт, уту́льнасць; **live in comfort** жыць у камфо́рце **2.** *pl.* **comforts** выго́ды; **home comforts** бытавы́я выго́ды **3.** суцяшэ́нне, падтры́мка; **words of comfort** сло́вы суцяшэ́ння

**comfort**[2] [ˈkʌmfət] *v.* уцяша́ць, суцяша́ць, заспако́йваць

**comfortable** [ˈkʌmfətəbl] *adj.* камфарта́бельны, уту́льны, выго́дны; зру́чны; ёмкі; **a comfortable chair** ёмкае крэ́сла; **a comfortable income** до́бры прыбы́так; *Do you feel comfortable?* Вам зручна?

**comfortably** [ˈkʌmfətəbli] *adv.* выго́дна, зру́чна, ёмка ♦ **be comfortably off** быць до́бра забяспéчаным, жыць у даста́тку, мець до́бры дахо́д

**comic**[1] [ˈkɒmɪk] *n.* **1.** ко́мік **2.** ко́міксы

**contented** [kənˈtentɪd] *adj.* задаво́лены, здаво́лены
**contentedly** [kənˈtentɪdli] *adv.* задаво́лена, здаво́лена
**contention** [kənˈtenʃən] *n. fml* **1.** сва́рка, зва́дка, разла́д; рознагало́ссе; спрэ́чка, пярэ́чанне **2.** пункт по́гляду/глэ́джання, сцве́рджанне (*у спрэчцы*) **3.** спабо́рніцтва ♦ **be in contention for smth.** змага́цца за што-н.
**contentment** [kənˈtentmənt] *n.* задавальне́нне, здавальне́нне, здаво́ленасць
**contest**[1] [ˈkɒntest] *n.* **1.** спабо́рніцтва **2.** ко́нкурс
**contest**[2] [kənˈtest] *v.* **1.** змага́цца (*за што-н.*), спабо́рнічаць; дабіва́цца, дамага́цца (*чаго-н.*); канкуры́раваць (*на выбарах*) **2.** абвярга́ць, аспрэ́чваць; **contest smb.'s decision** аспрэ́чваць чыё-н. рашэ́нне
**contestant** [kənˈtestənt] *n.* **1.** удзе́льнік спабо́рніцтва **2.** канкурэ́нт, сапе́рнік, праці́ўнік
**context** [ˈkɒntekst] *n.* **1.** кантэ́кст **2.** сітуа́цыя; су́вязь; фон, абста́віны
**continent** [ˈkɒntɪnənt] *n.* мацяры́к, кантыне́нт; **the Continent** *BrE* (кантынента́льная) Еўро́па
**continental** [ˌkɒntɪˈnentl] *adj.* **1.** кантынента́льны; тыпо́вы для Еўро́пы, выключа́ючы Брыта́нскія астравы́ **2.** тыпо́вы для кантыне́нта/мацерыка́; **a continental climate** кантынента́льны клі́мат; **a continental breakfast** лёгкае сне́данне (*кава з булачкай*); **a continental quilt** *BrE* падшыва́ная ко́ўдра
**continua** [kənˈtɪnjuə] *n. pl.* → **continuum**
**continual** [kənˈtɪnjuəl] *adj.* пастая́нны, заўсёдны, які́ штора́з паўтара́ецца
**continually** [kənˈtɪnjuəli] *adv.* пастая́нна
**continuation** [kənˌtɪnjuˈeɪʃn] *n.* **(of/in)** праця́г, прадаўжэ́нне
**continue** [kənˈtɪnjuː] *v.* **1.** праця́гваць рабі́ць (*што-н.*) дале́й **2.** праця́гвацца **3.** узнаві́ць, аднаві́ць; **to be continued** праця́г бу́дзе
**continuity** [ˌkɒntɪˈnjuːəti] *n.* безупы́ннасць, бесперапы́ннасць, неразры́ўнасць, непары́ўнасць
**continuous** [kənˈtɪnjuəs] *adj.* няспы́нны, бесперапы́нны; праця́глы
**continuously** [kənˈtɪnjuəsli] *adv.* няспы́нна, бесперапы́нна
**continuum** [kənˈtɪnjuəm] *n.* (*pl.* **continua**) канты́нуум
**contour** [ˈkɒntʊə] *n.* ко́нтур, абры́с; **a contour map** ко́нтурная ка́рта
**contraception** [ˌkɒntrəˈsepʃn] *n.* кантрацэ́пцыя, выкарыста́нне процізача́ткавых/супрацьзача́ткавых сро́дкаў; прадухіле́нне цяжа́рнасці
**contraceptive**[1] [ˌkɒntrəˈseptɪv] *n.* кантрацэпты́ў, процізача́ткавы/супрацьзача́ткавы сро́дак
**contraceptive**[2] [ˌkɒntrəˈseptɪv] *adj.* кантрацэпты́ўны, процізача́ткавы, супрацьзача́ткавы
**contract**[1] [ˈkɒntrækt] *n.* кантра́кт, дамо́ва, дагаво́р, пагадне́нне
**contract**[2] [kənˈtrækt] *v.* **1.** заключа́ць дагаво́р/пагадне́нне; браць на сябе́ абавя́зкі **2.** сціска́ць; сціска́цца; скарача́ць; скарача́цца; **contract expenses** скарача́ць выда́ткі **3.** набыва́ць (*прывычку, звычку*), атры́мліваць, падхо́пліваць; **contract a disease** захварэ́ць
**contraction** [kənˈtrækʃn] *n.* **1.** сціска́нне, звужэ́нне, сця́гванне, памяншэ́нне **2.** набыццё (*прывычкі, звычкі*) **3.** *ling.* скаро́чаная фо́рма, скарачэ́нне
**contradict** [ˌkɒntrəˈdɪkt] *v.* **1.** супярэ́чыць; пярэ́чыць **2.** адмаўля́ць; абвярга́ць
**contradiction** [ˌkɒntrəˈdɪkʃn] *n.* **1.** супярэ́чнасць, супярэ́члівасць **2.** абвяржэ́нне **3.** нязго́да ♦ **a contradiction in terms** лагі́чная неадпаве́днасць
**contradictory** [ˌkɒntrəˈdɪktəri] *adj.* супярэ́члівы
**contralto** [kənˈtræltəʊ] *n.* кантра́льта
**contraption** [kənˈtræpʃn] *n.* хітраму́драе прыстасава́нне, хітраму́драя прыла́да
**contrary**[1] [ˈkɒntrəri] *n.* процілe´гласць, супрацьле́гласць; **the contrary** не́шта адваро́тнае/проціле́глае/супрацьле́глае ♦ **on the contrary** наадваро́т; **to the contrary** у адваро́тным сэ́нсе, іна́кш; **interpret to the contrary** разуме́ць у адваро́тным сэ́нсе
**contrary**[2] [ˈkɒntrəri] *adj.* проціле́глы, супрацьле́глы
**contrary**[3] [kənˈtreəri] *adj. fml* упа́рты; сваво́льны, нату́рысты, капры́зны, нараві́сты
**contrast**[1] [ˈkɒntrɑːst] *n.* проціле́гласць, супрацьле́гласць, кантра́ст; процістаўле́нне, супрацьстаўле́нне; параўна́нне, параўно́ўванне; **in contrast with smth.** у проціле́гласць чаму́-н.; у параўна́нні з чым-н.
**contrast**[2] [kənˈtrɑːst] *v.* **1.** супастаўля́ць; параўно́ўваць **2.** процістаўля́ць, проціпастаўля́ць, супрацьстаўля́ць
**contribute** [kənˈtrɪbjuːt] *v.* **(to/towards) 1.** садзе́йнічаць, спрыя́ць **2.** ахвярава́ць (*грошы*); рабі́ць укла́д/унёсак (*у якую-н. справу*)
**contribution** [ˌkɒntrɪˈbjuːʃn] *n.* **(to/towards) 1.** садзе́йнічанне **2.** узно́с, ахвярава́нне
**contributor** [kənˈtrɪbjətə] *n.* **(to) 1.** прычы́на, фа́ктар **2.** ахвярава́льнік; фунда́тар **3.** супрацо́ўнік (*газеты або часопіса*)
**contributory** [kənˈtrɪbjətəri] *adj.* які садзе́йнічае, спрыя́льны
**contrite** [ˈkɒntraɪt] *adj. fml* які́ ка́ецца/раска́йваецца; які́ ў ро́спачы

**contritely** [ˈkɒntraɪtli] *adv.* пакая́нна, з раска́яннем; са скру́хай, з жа́лем, засму́чана, журбо́тна

**contrition** [kənˈtrɪʃn] *n.* раска́янне; шкадава́нне

**contrivance** [kənˈtraɪvəns] *n. fml* **1.** вы́думка **2.** прыла́да, прыстасава́нне

**contrive** [kənˈtraɪv] *v. fml* **1.** умудра́цца, ухітра́цца **2.** спраўля́цца, ула́джваць/пара́дкаваць (сваé) спра́вы

**contrived** [kənˈtraɪvd] *adj. derog.* напускны́; шту́чны; **contrived cheerfulness** напускна́я/шту́чная весяло́сць

**control**[1] [kənˈtrəʊl] *n.* **1.** кірава́нне **2.** кантро́ль, праве́рка **3.** стры́манасць, самавало́данне **4.** рэгуліро́ўка, рэгулява́нне **5.** *tech.* рыча́г; ру́чка **6.** *pl.* **controls** пане́ль кірава́ння; **a control tower** *aeron.* кантро́льна-дыспе́тчарскі пункт; **be in control (of)** мець свой уплы́ў, кірава́ць, кантралява́ць; **bring under control** падпара́дкаваць свайму́ ўплы́ву; **get beyond/out of control** вы́йсці з-пад кантро́лю/уплы́ву; **lose control** стра́ціць кантро́ль/самавало́данне

**control**[2] [kənˈtrəʊl] *v.* **1.** кірава́ць **2.** кантралява́ць

**controller** [kənˈtrəʊlə] *n.* **1.** кантралёр **2.** *comput.* кантралёр

**controversial** [ˌkɒntrəˈvɜːʃl] *adj.* спрэ́чны, дыску́сійны; супярэ́члівы

**controversially** [ˌkɒntrəˈvɜːʃli] *adv.* спрэ́чна; супярэ́чліва

**controversy** [ˈkɒntrəvɜːsi] *n.* спрэ́чка, дыску́сія, пале́міка; **beyond/without controversy** бясспрэ́чна

**conundrum** [kəˈnʌndrəm] *n.* галавало́мка, зага́дка; **speak in conundrums** гавары́ць зага́дкамі

**conurbation** [ˌkɒnɜːˈbeɪʃn] *n. fml* не́калькі гарадо́ў, які́я разрасл́іся і злілі́ся ў адзі́н вялі́кі го́рад

**convalesce** [ˌkɒnvəˈles] *v.* ачу́ньваць, выздара́ўліваць, папраўля́цца

**convalescence** [ˌkɒnvəˈlesns] *n.* ачу́ньванне, ачуня́нне, выздараўле́нне, папра́ўка

**convalescent**[1] [ˌkɒnvəˈlesnt] *n.* той, хто ачу́ньвае/папраўля́ецца (*пасля хваробы, ранення*)

**convalescent**[2] [ˌkɒnvəˈlesnt] *adj.* які́ ачу́ньвае/папраўля́ецца (*пасля хваробы, ранення*)

**convection** [kənˈvekʃn] *n. tech.* канве́кцыя; **convection current** канвекцы́йны пато́к

**convector** [kənˈvektə] *n.* канве́ктар

**convene** [kənˈviːn] *v. fml* склíка́ць, збіра́ць (*сход*)

**convenience** [kənˈviːniəns] *n.* **1.** выго́да; выго́ды; камфо́рт; **a flat with all the modern conveniences** кватэ́ра з усі́мі суча́снымі выго́дамі; **public convenience/public conveniences** *BrE* грама́дскі туале́т **2.** вы́гада; **a marriage of convenience** шлюб па разлі́ку; **at your convenience** *fml* як/калі́/дзе Вам бу́дзе зру́чна

**convenient** [kənˈviːniənt] *adj.* зру́чны, выго́дны, прыда́тны

**conveniently** [kənˈviːniəntli] *adv.* зру́чна, выго́дна

**convent** [ˈkɒnvənt] *n.* манасты́р, кля́штар (*жаночы*)

**convention** [kənˈvenʃn] *n.* **1.** дамо́ва, дагаво́р, пагадне́нне, канве́нцыя **2.** звы́чай **3.** *theatre* умо́ўнасць **4.** сход, з'езд; **a teachers' convention** з'е́зд наста́ўнікаў

**conventional** [kənˈvenʃənl] *adj.* **1.** звыча́йны; агульнапрыня́ты, традыцы́йны; **conventional clothes** адзе́нне, які́е выпуска́ецца вялі́кімі па́ртыямі; **conventional ideas/opinions** традыцы́йныя ідэ́і/по́гляды **2.** звыча́йны (*пра ўзбраенне – у процілегласць атамнаму*); **conventional weapons** звыча́йныя ві́ды збро́і

**conventionally** [kənˈvenʃənəli] *adv.* традыцы́йна, шабло́нна

**converge** [kənˈvɜːdʒ] *v.* сыхо́дзіцца (*пра лініі, дарогі і да т.п.*)

**convergence** [kənˈvɜːdʒəns] *n.* канверге́нцыя, сыхо́джанне/супадзе́нне ў адны́м пу́нкце

**convergent** [kənˈvɜːdʒənt] *adj.* канверге́нтны, сыхо́дны, збе́жны

**conversant** [kənˈvɜːsnt] *adj. fml* до́бра знаёмы; **conversant with a subject** знаёмы з прадме́там; дасве́дчаны

**conversation** [ˌkɒnvəˈseɪʃn] *n.* гу́тарка, размо́ва, гаво́рка; **have/hold a conversation with smb.** ве́сці размо́ву з кім-н.

**conversational** [ˌkɒnvəˈseɪʃənl] *adj.* гутарко́вы, размо́ўны; **conversational English** гутарко́вая англі́йская мо́ва

**conversationally** [ˌkɒnvəˈseɪʃnəli] *adv.* гутарко́ва, размо́ўна

**converse**[1] [ˈkɒnvɜːs] *n.* **the converse** *fml* адваро́тнае сцве́рджанне, палажэ́нне; адваро́тныя адно́сіны

**converse**[2] [ˈkɒnvɜːs] *adj. fml* адваро́тны, зваро́тны

**converse**[3] [kənˈvɜːs] *v. fml* размаўля́ць, гавары́ць

**conversely** [ˈkɒnvɜːsli] *adv. fml* адваро́тна, наадваро́т, зваро́тна

**conversion** [kənˈvɜːʃn] *n.* **1. (from, into)** ператварэ́нне, пераход́ (*з аднаго стану ў іншы*), перавод́, змяне́нне; **conversion from yards into metres** пераход́ ад я́рдаў да ме́траў; **the conversion of a house into flats** перабудо́ва до́ма ў кватэ́ры **2. (from, to)** схіле́нне (*да якой-н. веры*), пераход́ (*у іншую веру*) **3.** канве́рсія

**convert**[1] [ˈkɒnvɜːt] *n.* **1.** *relig.* неафі́т **2.** той, які́ перайшо́ў з адно́й па́ртыі ў і́ншую

**convert**[2] [kənˈvɜːt] *v.* **1. (into/to)** ператвара́ць; ператвара́цца; перарабля́ць, перавóдзіць; **convert dollars into pounds** перавóдзіць дóлары ў фу́нты **2.** пераварóчваць, звярта́ць (*у іншую веру*), схіля́ць

**converter** [kənˈvɜːtə] *n.* **1.** *tech.* канвéртар, рэтóрта **2.** *electr.* ператвара́льнік (*току, частаты*)

**convertible**[1] [kənˈvɜːtəbl] *n.* **1.** аўтамабі́ль з адкідны́м вéрхам **2.** кана́па-лóжак

**convertible**[2] [kənˈvɜːtəbl] *adj.* **1.** абарача́льны, змéнны, замéнны **2.** адкідны́; складны́; **a convertible sofa** складна́я кана́па; **a convertible seat** адкіднóе сядзéнне **3.** *finance* абарача́льны

**convex** [kɒnˈveks] *adj.* пука́ты; **a convex mirror** пука́тае лю́стра

**convey** [kənˈveɪ] *v* **1.** перадава́ць (*паведамленні, думкі*), паведамля́ць, выяўля́ць **2.** перавóзіць, перапраўля́ць **3.** *law* перадава́ць (*права, маёмасць каму-н.*)

**conveyor belt** [kənˈveɪəˌbelt] *n.* *tech.* канвéер, транспарцёр

**convict**[1] [ˈkɒnvɪkt] *n.* *law* асу́джаны, знявóлены; ка́таржнік

**convict**[2] [kənˈvɪkt] *v.* *law* прызнава́ць віна-ва́тым, вынóсіць прысу́д/прыгавóр, прыгавóрваць, асуджа́ць

**conviction** [kənˈvɪkʃn] *n.* **1.** пераканáнне **2.** упэ́ўненасць, пераканáнасць; **in full conviction** з пóўнай упэ́ўненасцю **3.** *law* асуджэ́нне, прысу́д, прызна́нне віна-ва́тым

**convince** [kənˈvɪns] *v.* перакóнваць

**convincing** [kənˈvɪnsɪŋ] *adj.* пераканáўчы, пераканáльны

**convincingly** [kənˈvɪnsɪŋli] *adv.* пераканáўча, пераканáльна

**convivial** [kənˈvɪviəl] *adj.* **1.** кампанéйскі, вясёлы **2.** святóчны, банкéтны

**convoy**[1] [ˈkɒnvɔɪ] *n.* **1.** суправаджэ́нне **2.** калóна (*аўтатранспарту*); карава́н (*суднаў*); канвóй; **travel in convoy** éхаць калóнай

**convoy**[2] [ˈkɒnvɔɪ] *v.* суправаджа́ць; канваі́раваць

**convulse** [kənˈvʌls] *v.* **1.** калаці́цца, уздры́гваць; бі́цца ў су́таргах/канву́льсіях; **be convulsed with laughter** калаці́цца ад смéху **2.** выклі-ка́ць су́таргі/канву́льсіі

**convulsion** [kənˈvʌlʃn] *n.* (*звыч. pl.* **convulsions**) канву́льсія, су́тарга, су́дарга

**convulsive** [kənˈvʌlsɪv] *adj.* канвульсі́йны, су́таргавы

**coo** [kuː] *v.* буркава́ць, варкава́ць; *They are billing and cooing.* Яны буркуюць як галубкі.

**cook**[1] [kʊk] *n.* **1.** ку́хар; куха́рка **2.** *naut.* кок ♦ **too many cooks spoil the broth** ≅ у сямі́ ня́нек дзіця́ мурза́тае

**cook**[2] [kʊk] *v.* **1.** гатава́ць, вары́ць (*ежу*) **2.** *infml* звéсці, зні́шчыць (*каго-н.*)

**cook up** [ˌkʊkˈʌp] *phr.v.* *infml* падрабі́ць, сфабрыкава́ць; **cook up charges** сфабрыкава́ць абвінава́чанне

**cooker** [ˈkʊkə] *n.* *BrE* пліта́, печ

**cookery** [ˈkʊkəri] *n.* кулі́на́рыя, гатава́нне (*ежы*); **a cookery book** кулі́на́рная кні́га; **cookery lessons** урóкі па кулі́на́рыі

**cookie** [ˈkʊki] *n.* (ха́тняе) пячэ́нне

**cool**[1] [kuːl] *n.* **1. the cool** прахалóда, халадóк; **the cool of the evening** вячэ́рняя прахалóда **2.** спакóй, спакóйнасць, стры́манасць ♦ **keep/lose one's cool** *infml* захóўваць/губля́ць самакантрóль

**cool**[2] [kuːl] *adj.* **1.** халаднава́ты, свéжы; **a cool morning** халаднава́тая ра́ніца; **a cool wind** свéжы вéцер **2.** спакóйны, стры́маны; *Keep cool!* Не гарачыся/супакойся! **3.** сухі́, непрывéтны; **a cool reception** нявéтлівы прыём **4.** дзёрзкі, наха́бны; **cool behaviour** наха́бныя павóдзіны **5.** *infml* мóдны, суча́сны; выда́тны, першакла́сны; *Cool!* Здорава!; Класна!; Крута!

**cool**[3] [kuːl] *v.* **1.** студзі́ць, ахалóджваць, асту́джваць **2.** ахалóджвацца, астыва́ць ♦ **cool it!** *infml* асты́нь!

**cool down** [ˌkuːlˈdaʊn] *phr.v.* **1.** супакóйваць; уціхамі́рваць **2.** астыва́ць, ахалóджвацца

**cool**[4] [kuːl] *adv.* *infml* спакóйна, абыя́кава ♦ **play it cool** *infml* дзéйнічаць спакóйна і стры́мана

**cooler** [ˈkuːlə] *n.* халадзі́льнік

**coolly** [ˈkuːli] *adv.* **1.** халаднава́та **2.** спакóйна **3.** су́ха, непрывéтна **4.** дзёрзка

**coolness** [ˈkuːlnəs] *n.* **1.** халадóк, прахалóда; сцюдзёнасць, я́дранасць **2.** спакóйнасць **3.** халóднасць (*адносін*)

**coop**[1] [kuːp] *n.* кура́тнік (*для свойскай птушкі*); клéтка (*для трусоў*)

**coop**[2] [kuːp] *v.* **: (up)** трыма́ць (*каго-н.*) пад замкóм у цéсным памяшка́нні

**co-op** [ˈkəʊɒp] *n.* *infml* кааператы́ў

**cooperate** [kəʊˈɒpəreɪt] *v.* **(with, in/on) 1.** супрацóўнічаць; узаемадзéйнічаць **2.** садзéйнічаць; **cooperate in the success of smth.** садзéйнічаць пóспеху чагó-н. **3.** каапераваа́цца, аб'ядно́ўвацца

**cooperation** [kəʊˌɒpəˈreɪʃn] *v.* **1.** супрацóўніцтва; садзéйнічанне; **in cooperation with** у

супрацо́ўніцтве з **2.** узаемадзе́янне **3.** каапера́цыя

**cooperative¹** [kəʊˈɒpərətɪv] *n.* кааператы́ў, кааператы́ўнае тавары́ства; **a customers'/farm/producers' cooperative** спажыве́цкі/фе́рмерскі/вытво́рчы кааператы́ў

**cooperative²** [kəʊˈɒpərətɪv] *adj.* **1.** суме́сны, супо́льны, аб'ядна́ны, які́ дзе́йнічае ўзго́днена; **in a cooperative spirit** у ду́ху супрацо́ўніцтва **2.** кааператы́ўны

**cooperatively** [kəʊˈɒpərətɪvli] *adv.* суме́сна, супо́льна

**co-opt** [kəʊˈɒpt] *v.* кааптава́ць

**coordinate¹** [kəʊˈɔːdɪnət] *n.* **1.** раўня́ (*па стано́вішчы*) **2.** *звыч. pl.* **coordinates** *math.* каардына́ты, сістэ́ма каардына́т

**coordinate²** [kəʊˈɔːdɪneɪt] *v.* каардынава́ць, устана́ўліваць пра́вільныя суадно́сіны, узгадня́ць, пагаджа́ць; **coordinate efforts** каардынава́ць намага́нні

**coordination** [kəʊˌɔːdɪˈneɪʃn] *n.* **1.** каардына́цыя, узгадне́нне, пагаджэ́нне **2.** *ling.* злучэ́нне

**coordinator** [kəʊˈɔːdɪneɪtə] *n.* каардына́тар

**coot** [kuːt] *n.* **1.** *zool.* лысу́ха (*вадаплаўная птушка*) **2.** *infml* прасця́к, ду́рань; **old coot** *AmE, infml* ду́рань ♦ **as bald as a coot** *BrE, infml* ≅ зусі́м лы́сы/лы́сы як кале́на

**cop¹** [kɒp] *n. infml* **1.** паліцэ́йскі, коп **2.** злаўле́нне, злоў ♦ **not much cop** *BrE* не ве́льмі до́бры, не Бог ве́дае які́, не ве́льмі каб

**cop²** [kɒp] *v.* **1.** атрыма́ць або́ паражы́ць што-н. непрые́мнае **2.** заўва́жыць, прыме́ціць **3.** *infml* злаві́ць, заста́ць, накры́ць, засту́каць; **cop smb. at it** злаві́ць каго́-н. на ме́сцы злачы́нства ♦ **cop it** *BrE, slang* атрыма́ць нагання́й; тра́піць у непрые́мнае стано́вішча

**cope** [kəʊp] *v.* **(with)** спраўля́цца, упраўля́цца

**copeck** [ˈkəʊpek] *n.* капе́йка

**copier** [ˈkɒpiə] *n.* ксеракапірава́льная машы́на = **photocopier**

**co-pilot** [ˈkəʊpaɪlət] *n.* другі́ піло́т

**copious** [ˈkəʊpiəs] *adj.* бага́ты; вялі́кі; шыро́кі; шчо́дры; **a copious vocabulary** бага́ты слоўнікавы запа́с; **a copious writer** пладаві́ты пісьме́ннік

**copiously** [ˈkəʊpiəsli] *adv.* бага́та, шчо́дра

**copper** [ˈkɒpə] *n.* **1.** медзь **2.** *pl.* **coppers** медзякі́ (*медныя грошы*) **3.** *BrE, infml* паліцэ́йскі

**coppery** [ˈkɒpəri] *adj.* **1.** ме́днага ко́леру **2.** які́ змяшча́е ў сабе́ медзь

**copra** [ˈkɒprə] *n. bot.* ко́пра

**copse** [kɒps] *n.* гай

**copula** [ˈkɒpjələ] *n. ling.* дзеясло́ў-звя́зка

**copulate** [ˈkɒpjəleɪt] *v. biol., fml* спаро́ўвацца, злуча́цца

**copulation** [ˌkɒpjəˈleɪʃn] *n. biol., fml* спаро́ўванне, злу́чка

**copy¹** [ˈkɒpi] *n.* **1.** экзэмпля́р **2.** ко́пія **3.** ру́капіс; **a fair copy** чыставі́к; **a rough copy** чарнаві́к **4.** *comput.* капі́раванне; ко́пія

**copy²** [ˈkɒpi] *v.* **1.** капі́раваць, здыма́ць ко́пію **2.** перапі́сваць, спі́сваць **3.** перайма́ць, іміта́ваць

**copy down** [ˌkɒpiˈdaʊn] *phr.v.* запі́сваць

**copy out** [ˌkɒpiˈaʊt] *phr.v.* выпі́сваць

**copyist** [ˈkɒpiɪst] *n.* **1.** перапі́счык; перапі́счыца **2.** капіро́ўшчык; капіро́ўшчыца **3.** пераймальнік; перайма́льніца; іміта́тар; іміта́тарка

**copyright** [ˈkɒpiraɪt] *n.* а́ўтарскае пра́ва; **copyright reserved** а́ўтарскае пра́ва захава́на (*перадрук забараняецца*)

**coral¹** [ˈkɒrəl] *n.* кара́л

**coral²** [ˈkɒrəl] *adj.* кара́лавы, кара́лавага ко́леру

**cord** [kɔːd] *n.* **1.** вяро́ўка, або́рка, шнуро́к, матузо́к **2.** *electr.* шнур **3.** *anat.* звя́зка; **vocal cords** галасавы́я звя́зкі **4.** *pl.* **cords** *infml* штаны́ з рубча́стага плі́су або́ вельвэ́ту

**cordial¹** [ˈkɔːdiəl] *n.* **1.** сіро́п **2.** лікёр

**cordial²** [ˈkɔːdiəl] *adj. fml* сардэ́чны, шчы́ры, гасці́нны, ве́тлівы; **a cordial smile** прыве́тлівая ўсме́шка; **a cordial welcome** цёплы прыём; **a cordial invitation** сардэ́чнае запрашэ́нне

**cordiality** [ˌkɔːdiˈæləti] *n.* сардэ́чнасць, шчы́расць, ве́тлівасць

**cordially** [ˈkɔːdiəli] *adv.* сардэ́чна, шчы́ра, ве́тліва, з цеплынёй

**cordon** [ˈkɔːdn] *n.* кардо́н, загараджа́льны атра́д

**corduroy** [ˈkɔːdərɔɪ] *n. textile* рубча́сты пліс; вельве́т; *pl.* **corduroys** вельве́тавыя або́ плі́савыя штаны́

**core** [kɔː] *n.* **1.** сярэ́дзіна, асяро́дак; уну́транасць; сарцаві́на, ядро́; **the core of an apple** сарцаві́на я́блыка **2.** су́тнасць **3.** *tech.* стры́жань, асяро́дак ♦ **to the core** да су́тнасці

**cork¹** [kɔːk] *n.* **1.** кара́ ко́ркавага ду́ба **2.** ко́рак, заты́чка

**cork²** [kɔːk] *v.* затыка́ць ко́ркам, закарко́ўваць (*бутэльку*)

**corkscrew** [ˈkɔːkskruː] *n.* **1.** што́пар **2.** *aeron.* крутая́ спіра́ль, што́пар

**cormorant** [ˈkɔːmərənt] *n. zool.* бакла́н вялі́кі

**corn¹** [kɔːn] *n.* збо́жжа, збажына́; *AmE* кукуру́за

**corn²** [kɔːn] *n.* мазо́ль (*звычайна на назе*)

**corner¹** [ˈkɔːnə] *n.* **1.** кут, куто́к; рог, ву́гал; **in the corner of the room** у куце́ пако́я; **at/on the corner of the street** на рагу́/вуглу́ ву́ліцы; **turn the corner** завярну́ць за рог/ву́гал **2.** за-

кавýлак, патайны́ закýтак; **in a quiet corner** у зацíшным куткý ♦ **round the corner** зусíм блíзка; **cut corners** зразáць вуглы́, ісцí напрасця́к; **in a corner** у куцé, у безвыхóдным станóвішчы

**corner**[2] [ˈkɔːnə] *v.* **1.** загнáць у вýгал, пастáвіць у тупíк; прыпéрці да сцяны́ **2.** скупля́ць тавáры з мэ́тай спекуля́цыі; **corner the market** завалóдаць ры́нкам

**cornerstone** [ˈkɔːnəstəʊn] *n.* **1.** краевугóльны кáмень **2.** *archit.* кýтні/вуглавы́ кáмень

**cornet** [ˈkɔːnɪt] *n.* **1.** *mus.* карнéт **2.** *BrE* вáфельны ражóк

**cornfield** [ˈkɔːnfiːld] *n.* пóле, палéтак (*засеяны збожжавымі*), нíва

**cornflakes** [ˈkɔːnfleɪks] *n. pl.* кукурýзныя шматкí

**cornflour** [ˈkɔːnflaʊə] *n.* кукурýзная мукá

**cornflower** [ˈkɔːnflaʊə] *n. bot.* валóшка, васілёк

**cornice** [ˈkɔːnɪs] *n.* **1.** карнíз **2.** нáвісь

**corny** [ˈkɔːni] *adj. infml* банáльны, збíты, неарыгінáльны; **a corny joke** збíты жарт; **a corny film** банáльны фільм

**corollary** [kəˈrɒləri] *n. fml* вынóва, вы́вад, заключэ́нне

**corona** [kəˈrəʊnə] *n.* (*pl.* **coronae**) **1.** *astron.* карóна, вянéц **2.** *electr.* карóна, карóнны разрáд **3.** *bot.* карóна **4.** *anat.* карóнка (*зуба*)

**coronary**[1] [ˈkɒrənri] *n.* трамбóз вянéчных сасýдаў

**coronary**[2] [ˈkɒrənri] *adj. med.* вянéчны, каранáрны; **coronary thrombosis** каранáрны трамбóз

**coronation** [ˌkɒrəˈneɪʃn] *n.* каранáцыя

**coroner** [ˈkɒrənə] *n.* слéдчы, які́ вядзé спрáвы аб гвалтóўнай абó раптóўнай смéрці; слéдчы па асóба вáжных спрáвах

**coronet** [ˈkɒrənɪt] *n.* **1.** малéнькая карóна **2.** дыядэ́ма

**corpora** [ˈkɔːpərə] *pl.* → **corpus**

**corporal**[1] [ˈkɔːpərəl] *n.* капрáл

**corporal**[2] [ˈkɔːpərəl] *adj. fml* цялéсны, фізíчны; **corporal defects** фізíчныя недахóпы/загáны; **corporal punishment** цялéснае пакарáнне, лупцóўка

**corporate** [ˈkɔːpərət] *adj.* **1.** уласцíвы, якí налéжыць усíм члéнам якóй-н. грýпы, калекты́ўны, супóльны, агýльны; **corporate responsibility** калекты́ўная адкáзнасць; **a corporate body** юрыды́чная асóба; **a corporate effort** агýльнае намагáнне; **a corporate town** гóрад, які́ мáе самакіравáнне/з сістэ́май самакіравáння **2.** карпараты́ўны/які́ налéжыць карпарáцыі

**corporately** [ˈkɔːpərətli] *adv.* калекты́ўна, супóльна, сумéсна

**corporation** [ˌkɔːpəˈreɪʃn] *n.* **1.** аб’яднáнне, тавары́ства, супóлка, карпарáцыя **2.** *BrE* муніцыпалітэ́т

**corps** [kɔː] (*pl.* **corps** [kɔːz]) *n.* **1.** *mil.* кóрпус, род войск, слýжба; **the medical corps** медыцы́нская слýжба; **Corps of Engineers** інжынéрныя вóйскі **2.** кóрпус (*галіна службы*); **the diplomatic corps** дыпламаты́чны кóрпус; **the press corps** інфармацы́йная слýжба

**corps de ballet** [ˌkɔːdəˈbæleɪ] *n.* кардэбалéт

**corpse** [kɔːps] *n.* труп

**corpus** [ˈkɔːpəs] *n.* (*pl.* **corpora** *or* **corpuses**) збор, звод (*тэкстаў, законаў і да т.п.*); **the whole corpus of Renaissance poetry** пóўны збор паэ́зіі эпóхі Адраджэ́ння

**corpuscle** [ˈkɔːpʌsl] *n. anat.* часцíнка, цéльца, карпýскула; **red/white corpuscles** *physiol.* чырвóныя/бéлыя крывяны́я цéльцы

**corral** [kəˈrɑːl] *n. AmE* **1.** зáгарадзь для жывёлы; зáгарадзь для лóўлі дзíкіх жывёл **2.** заслóн з абóзных павóзак (*вакол лагера*)

**correct**[1] [kəˈrekt] *adj.* **1.** прáвільны, слýшны, даклáдны, карэ́ктны **2.** адпавéдны, прыдáтны

**correct**[2] [kəˈrekt] *v.* **1.** выпраўля́ць, папраўля́ць **2.** прáвіць, карэкцíраваць

**correction** [kəˈrekʃn] *n.* выпраўлéнне, папрáўка; прáўка; карэктýра

**corrective** [kəˈrektɪv] *adj. fml* папрáўчы, карэкцы́йны; **corrective punishment** папрáўчае пакарáнне

**correctly** [kəˈrektli] *adv.* **1.** прáвільна, слýшна, даклáдна **2.** карэ́ктна

**correctness** [kəˈrektnəs] *n.* **1.** прáвільнасць, слýшнасць, даклáднасць **2.** карэ́ктнасць, добрапрыстóйнасць

**correlation** [ˌkɒreˈleɪʃn] *n.* **(between)** узаемасýвязь, суаднóсіны; **a high correlation between unemployment and crime** цéсная ўзаемасýвязь памíж беспрацóўем і злачы́ннасцю

**correspond** [ˌkɒrəˈspɒnd] *v.* **(to, with) 1.** адпавядáць, суаднóсіцца; **correspond to smb.'s needs** адпавядáць чы́ім-н. патрабавáнням; **correspond with reality** адпавядáць рэчаíснасці **2.** супадáць **3.** перапíсвацца, ліставáцца

**correspondence** [ˌkɒrəˈspɒndəns] *n.* **1.** перапíска, ліставáнне; **be in correspondence** перапíсвацца, ліставáцца **2.** карэспандэ́нцыя (*паштова-тэлеграфныя адпраўленні*) **3.** адпавéднасць, суаднóснасць

**correspondence course** [ˌkɒrəˈspɒndənsˌkɔːs] *n.* завóчны кýрс

**correspondent** [ˌkɒrəˈspɒndənt] *n.* **1.** карэспандэ́нт (*газеты, часопіса і да т.п.*); **a war correspondent** ваенны карэспандэ́нт **2.** асоба, з якой вядзецца перапіска; карэспандэ́нт

**corresponding** [ˌkɒrəˈspɒndɪŋ] *adj.* **1.** адпаве́дны **2.** падо́бны, аналагі́чны

**correspondingly** [ˌkɒrəˈspɒndɪŋli] *adv.* **1.** адпаве́дна **2.** падо́бна, аналагі́чна

**corridor** [ˈkɒrɪdɔː] *n.* калідо́р ♦ **the corridors of power** «калідо́ры ўла́ды», кіру́ючыя ко́лы

**corroborate** [kəˈrɒbəreɪt] *v. fml* пацвярджа́ць, сцвярджа́ць; падмацо́ўваць (*тэорыю*)

**corroboration** [kəˌrɒbəˈreɪʃn] *n.* пацвярджэ́нне, сцвярджэ́нне; **in corroboration of smth.** у пацвярджэ́нне чаго́-н.

**corrode** [kəˈrəʊd] *v.* **1.** раз'яда́ць; *Rust corrodes iron.* Іржа раз'ядае жалеза. **2.** іржаве́ць, ржаве́ць, каразі́раваць, падвярга́цца каро́зіі; **cause metal to corrode** выклі́каць каро́зію мета́лу

**corrosion** [kəˈrəʊʒn] *n.* **1.** каро́зія, акісле́нне, (і)ржа́ўленне **2.** каро́зія, (і)ржа́; **corrosion on the car's body** каро́зія на ко́рпусе аўтамабіля

**corrosive** [kəˈrəʊsɪv] *adj.* е́дкі, які́ раз'яда́е, каразі́йны, разбура́льны; **corrosive effects** разбура́льныя эфе́кты/уздзе́янні

**corrugated** [ˈkɒrəgeɪtɪd] *adj.* **1.** змо́ршчаны **2.** *tech.* гафры́раваны, ры́флены; **corrugated iron** ры́фленае жале́за

**corrupt**[1] [kəˈrʌpt] *adj.* **1.** амара́льны, зага́нны, дрэ́нны, ке́пскі, благі́; сапсава́ны; **a corrupt political system, full of violence** зага́нная паліты́чная сістэ́ма, пабудава́ная на насі́ллі **2.** карумпі́раваны, несумле́нны, схі́льны да ха́бару, прада́жны; **a corrupt judge** прада́жны суддзя́; **corrupt practices** кару́пцыя **3.** скажо́ны, перакру́чаны; невераго́дны; няпэ́ўны; **a corrupt form of French** скажо́ная фо́рма францу́зскай мо́вы

**corrupt**[2] [kəˈrʌpt] *v.* **1.** псава́ць; псава́цца; разбэ́шчваць; разбэ́шчвацца; **corrupt the character** псава́ць хара́ктар; *It is claimed that television corrupts.* Існуе думка, што тэлебачанне разбэшчвае. **2.** падкупля́ць, дава́ць ха́бар

**corruption** [kəˈrʌpʃn] *n.* **1.** кару́пцыя, прада́жнасць **2.** разбэ́шчванне, распу́ста **3.** разбэ́шчанасць, распу́снасць

**corset** [ˈkɔːsət] *n.* гарсэ́т

**cortège** [kɔːˈteʒ] *n. франц.* картэ́ж, вы́езд; ураЧы́стае шэ́сце; **a funeral cortege** пахава́льная/жало́бная працэ́сія

**cos** (*таксама* **'cos**) [kɒz] *conj. BrE, infml* (*скар. ад* **because**) таму́ што, бо

**cosmetic**[1] [kɒzˈmetɪk] *n.* **1.** касметы́чны сро́дак **2.** *pl.* **cosmetics** касме́тыка

**cosmetic**[2] [kɒzˈmetɪk] *adj.* **1.** касметы́чны; **cosmetic cream** касметы́чны крэм **2.** касметы́чны, зне́шні, паве́рхневы; **a cosmetic repair** касметы́чны рамо́нт

**cosmic** [ˈkɒzmɪk] *adj.* касмі́чны; **cosmic iron** метэары́тнае жале́за; **cosmic rays** касмі́чныя прамяні́

**cosmonaut** [ˈkɒzmənɔːt] *n.* касмана́ўт

**cosmopolitan**[1] [ˌkɒzməˈpɒlɪtən] *n.* касмапалі́т, грамадзя́нін све́ту; грамадзя́нка све́ту

**cosmopolitan**[2] [ˌkɒzməˈpɒlɪtən] *adj.* **1.** касмапаліты́чны, насе́лены людзьмі́ з ро́зных куткo̍ў све́ту; **a cosmopolitan city** касмапаліты́чны го́рад **2.** касмапаліты́чны, з шыро́кім кругагля́дам (*пра чалавека, погляды*)

**cosmos** [ˈkɒzmɒs] *n. sing.* **the cosmos** ко́смас, сусве́т

**cosset** [ˈkɒsɪt] *v.* пе́сціць, галу́біць, мілава́ць, ла́шчыць

**cost**[1] [kɒst] *n.* **1.** кошт, цана́, ва́ртасць; **the prime cost** сабеко́шт; **the cost of living** пражы́тачны мі́німум; **free of cost** бясплатна **2.** *pl.* **costs** выда́ткі, стра́ты; **the costs of production** выда́ткі вытво́рчасці ♦ **at any cost/at all cost(s)** любо́й цано́й/любы́м ко́штам/за любу́ю цану́

**cost**[2] [kɒst] *v.* **(cost) 1.** каштава́ць, абыхо́дзіцца; *What does it cost?* Колькі гэта каштуе?; *It cost me a lot of money.* Гэта абышлося мне вельмі дорага. **2.** патрабава́ць, каштава́ць; *Dictionary compiling costs a lot of time and care.* Укладанне слоўніка патрабуе шмат часу і ўвагі. **3.** прызна́чыць/назна́чыць цану́ (*за работу і г.д.*); расцэ́ньваць (*тавар*) ♦ **cost smb. dear** прыму́сіць каго́-н. мо́цна паку́таваць; **cost a man his health/life** каштава́ць чалаве́ку здаро́ўя/жыцця́

**co-star** [ˈkəʊstɑː] *n.* вядо́мы акцёр, які́ ігра́е ра́зам з і́ншымі вядо́мымі акцёрамі

**costly** [ˈkɒstli] *adj.* **1.** дарагі́, які́ кашту́е шмат гро́шай; **costly furniture** дарага́я мэ́бля **2.** дарагі́, здабы́ты цано́й вялі́кіх ахвя́р; **a costly victory** дарага́я перамо́га

**costume** [ˈkɒstjuːm] *n.* касцю́м (*асабліва тэатральнае/маскараднае адзенне або адзенне пэўнага гістарычнага перыяду*); **a costume drama/play** гістары́чная п'е́са

**cosy**[1] [ˈkəʊzi] *n.* фастрыгава́ны чахо́л (*для чайніка*)

**cosy**[2] [ˈkəʊzi] *adj.* ту́льны

**cot** [kɒt] *n.* **1.** *BrE* дзіця́чы ло́жак **2.** невялі́кі ву́зкі ло́жак

**cottage** [ˈkɒtɪdʒ] *n.* катэ́дж; невялі́кі жылы́ дом (*асабліва ў сельскай мясцовасці*)

**cottage cheese** [ˌkɒtɪdʒˈtʃiːz] *n.* сыр «катэ́дж», прасава́ны тваро́г
**cottage pie** [ˌkɒtɪdʒˈpaɪ] *n.* мясна́я запяка́нка з бу́льбай
**cotton** [ˈkɒtn] *n.* **1.** баво́ўна; **a cotton dress** паркалёвая суке́нка; **cotton wool** *BrE* ва́та (*медыцынская*) **2.** *bot.* баво́ўнік, баво́ўна **3.** бавоўня́ныя ні́ткі
**cotton on** [ˌkɒtnˈɒn] *phr.v. BrE, infml* **(to)** разуме́ць, ке́міць, ця́міць, даўме́цца, змі́кіціць, дапя́ць
**couch**[1] [kaʊtʃ] *n.* кана́па
**couch**[2] [kaʊtʃ] *v. fml* (*звыч. у залежным стане*) выка́зваць, (с)фармулява́ць; **couched in the idiom** перада́дзены ідыёмай
**couchette** [kuːˈʃet] *n.* адкідно́е спа́льнае месца ў ваго́не
**cough**[1] [kɒf] *n.* ка́шаль; **give a slight cough** адка́шляцца; **have a bad cough** мо́цна ка́шляць
**cough**[2] [kɒf] *v.* **1.** ка́шляць; пака́шліваць **2.** чхаць (*пра матор*)
**cough up** [ˌkɒfˈʌp] *phr.v.* **1.** адка́шліваць, адха́рkваць **2.** *infml* вы́лажыць/вы́класці (*грошы*); неахво́тна вы́даць (*інфармацыю*)
**could** [kʊd, kəd] *v. past* → **can**
**couldn't** [ˈkʊdnt] *скар. ад* **could not**
**council**[1] [ˈkaʊnsl] *n.* **1.** саве́т, ра́да; **a council house** дом, які́ нале́жыць муніцыпа́льнаму саве́ту; **the city council** муніцыпа́льны саве́т, муніцыпалітэ́т; **the Security Council** Саве́т Бяспе́кі (ААН) **2.** нара́да; **hold a council** право́дзіць нара́ду
**councillor** [ˈkaʊnsələ] *n.* **1.** член савета **2.** саве́тнік
**councilor** [ˈkaʊnsələ] *AmE* = **councillor**
**counsel**[1] [ˈkaʊnsl] *n.* **1.** *fml* пара́да; **give good counsel** даць до́брую пара́ду **2.** адвака́т; **the counsel for the defence** абаро́нца абвінава́чанага; **the counsel for the plaintiff** адвака́т істца́; **the counsel for the prosecution** абвінаваў́ца, пракуро́р; **take counsel's opinion** пракансультава́цца з адвака́там ♦ **keep one's own counsel** трыма́ць у сакрэ́це, памо́ўчваць
**counsel**[2] [ˈkaʊnsl] *v. fml* ра́іць, дава́ць пара́ду
**counsellor** [ˈkaʊnsələ] *n.* **1.** саве́тнік, кансульта́нт; **a marriage guidance counsellor** кансульта́нт па пыта́ннях шлю́бу **2.** *AmE* адвака́т **3.** *AmE* выхава́льнік; выхава́льніца (*у дзіцячым летнім лагеры*)
**counselor** [ˈkaʊnsələ] *AmE* = **counsellor**
**count**[1] [kaʊnt] *n.* граф
**count**[2] [kaʊnt] *n.* лік, падлі́к, улі́к; **keep count** ве́сці падлі́к; **lose count** збі́цца з лі́ку, губля́ць лік ♦ **be out for the count** (*пра баксёра*) быць на падло́зе, калі́ суддзя́ адлі́чвае секу́нды; ляжа́ць без па́мяці, быць у нака́ўце
**count**[3] [kaʊnt] *v.* **1.** лічы́ць, падлі́чваць; **count one's money** лічы́ць гро́шы; **count up to three** лічы́ць да трох **2.** мець значэ́нне; *Money counts with him more than anything.* Грошы для яго – самае галоўнае; *Every minute counts.* Дарагая кожная хвіліна. **3.** прыма́ць у разлі́к, улі́чваць; **fifty people not counting the children** пяцьдзяся́т чалаве́к, калі́ не лічы́ць дзяце́й; **that doesn't count** гэ́та не ідзе́ ў разлі́к **4.** лічы́ць, успрыма́ць; **be counted as friends** лічы́цца сябра́мі ♦ **don't count your chickens before they are hatched** кураня́т уво́сень лі́чаць; ≅ не той хлеб, што на по́лі, а той, што ў гумне
**count on** [ˌkaʊntˈɒn] *phr.v.* разлі́чваць, спадзява́цца (*на каго-н. або што-н.*)
**count upon** [ˌkaʊntəˈpɒn] *phr.v.* разлі́чваць, спадзява́цца (*на каго-н. або што-н.*)
**countable** [ˈkaʊntəbl] *adj.* злі́ча́льны, які́ мо́жна злічы́ць, падлічы́ць
**countdown** [ˈkaʊntdaʊn] *n.* адлі́чванне секу́нд у адваро́тным пара́дку (*асабліва пры запуску касмічнага карабля*)
**countenance**[1] [ˈkaʊntənəns] *n. fml* твар, вы́раз тва́ру; **an expressive countenance** выра́зны твар; **change one's countenance** змяні́цца з тва́ру
**countenance**[2] [ˈkaʊntənəns] *v. fml*. падтры́мліваць, адабра́ць, ухваля́ць; дазваля́ць
**counter**[1] [ˈkaʊntə] *n.* **1.** прыла́вак **2.** фі́шка (*для падліку ў гульнях*); **3.** ша́шка (*у гульні*) **4.** *tech.* лічы́льнік ♦ **over the counter** у про́дажы без рэцэ́пта (*пра лекі*); **under the counter** та́йна, падпо́льна
**counter**[2] [ˈkaʊntə] *v.* **1.** працí́віцца, працістая́ць, працідзе́йнічаць, супрацьстая́ць, супрацьдзе́йнічаць **2.** *fml* пярэ́чыць, супярэ́чыць **3.** *sport* пары́раваць і праве́сці контрата́ку, нане́сці ўда́р у адка́з
**counter**[3] [ˈkaʊntə] *adv.* **(to)** у працíле́глым напра́мку, наадваро́т, (на)су́праць, (на)супро́ць; **act counter to all advice** зрабі́ць насу́перак таму́, што пара́ілі
**counteract** [ˌkaʊntərˈækt] *v.* працідзе́йнічаць, супрацьдзе́йнічаць, перашкаджа́ць; нейтралізава́ць; **counteract poison** нейтралізава́ць яд
**counteraction** [ˌkaʊntərˈækʃn] *n.* працідзе́янне, супрацьдзе́янне; перашко́да; нейтралізá́цыя
**counter-attack**[1] [ˈkaʊntərəˌtæk] *n.* контрата́ка, контрнаступле́нне
**counter-attack**[2] [ˌkaʊntərəˈtæk] *v.* контратакава́ць

**counterbalance**[1] [ˈkaʊntəˌbæləns] *n.* **1.** процівáга **2.** ураўнавáжвальная сíла

**counterbalance**[2] [ˌkaʊntəˈbæləns] *v.* **1.** ураўнавáжваць, служы́ць процівáгай **2.** нейтралізавáць дзéянне, ураўнавáжваць

**counterclockwise**[1] [ˌkaʊntəˈklɒkwaɪz] *adj. AmE* які́ рýхаецца сýпраць/супрóць гадзíннікавай стрэ́лкі

**counterclockwise**[2] [ˌkaʊntəˈklɒkwaɪz] *adv. AmE* сýпраць/супрóць гадзíннікавай стрэ́лкі

**counterfeit**[1] [ˈkaʊntəfɪt] *n.* падрóбка; падлóг

**counterfeit**[2] [ˈkaʊntəfɪt] *adj.* падрóблены, фальшы́вы, падлóжны; **a counterfeit coin** фальшы́вая манéта

**counterfeit**[3] [ˈkaʊntəfɪt] *v.* падрабля́ць, падрóбліваць; фальсіфікавáць; **counterfeit money** падрабля́ць грóшы; **counterfeit smb.'s signature** падрабля́ць чый-н. пóдпіс

**counterfoil** [ˈkaʊntəfɔɪl] *n. BrE* карашóк (*чэка, квітка, білета*)

**counterpane** [ˈkaʊntəpeɪn] *n. dated* падшывáнае/вя́занае пакрывáла (*на ложку*)

**counterpart** [ˈkaʊntəpɑːt] *n.* **1.** калéга, службóвая асóба, якáя займáе аналагíчную пасáду (*у іншай установе, у іншай краіне*) **2.** кóпія, дублікáт

**countess** [ˈkaʊntəs] *n.* графíня

**countless** [ˈkaʊntləs] *adj.* незлічóны

**count noun** [ˈkaʊntˌnaʊn] *n. ling.* назóўнік, які́ ўжывáецца ў адзінóчным і мнóжным лíку

**country**[1] [ˈkʌntri] *n.* **1.** краíна **2. the country** жыхары́ краíны, насéльніцтва **3.** радзíма, бáцькаўшчына, айчы́на, рóдны край **4. the country** сéльская мясцóвасць **5.** мясцóвасць, тэрытóрыя

**country**[2] [ˈkʌntri] *adj.* вяскóвы, сéльскі; **country life** вяскóвае жыццё

**country and western** [ˌkʌntriəndˈwestən] *n.* мýзыка кáнтры, папуля́рная мýзыка ў сты́лі, які́ характэ́рны для паўднёвых і захóдніх раёнаў ЗША

**countryman** [ˈkʌntrɪmən] *n.* (*pl.* **-men**) **1.** зямля́к, суайчы́ннік **2.** вяскóвы жыхáр, селянíн

**countryside** [ˈkʌntrɪsaɪd] *n.* сéльская мясцóвасць

**county** [ˈkaʊnti] *n.* грáфства (*у Вялікабрытаніі, Ірландыі*); акрýга (*у ЗША*)

**coup** [kuː] *n.* **1.** дзяржáўны пераварóт **2.** пасяхóвы ход; пóспех у спрáвах

**coup d'état** [ˌkuːdeɪˈtɑː] *n.* (*pl.* **coups d'état**) дзяржáўны пераварóт

**couple**[1] [ˈkʌpl] *n.* **1.** пáра (*муж і жонка*; *жаніх і нявеста*); **a married couple** сямéйная пáра **2.** пáра (*у танцы*) **3.** пáра, два; *infml* нéкалькі; **in a couple of days** праз два-тры дні

**couple**[2] [ˈkʌpl] *v.* **1. (together)** спалучáць, злучáць; счэ́пліваць (*вагоны*) **2. (with)** спарóўваць; спарóўвацца; злучáць (*жывёлу*)

**coupling** [ˈkʌplɪŋ] *n.* **1.** злучэ́нне, спалучэ́нне **2.** *tech.* счаплéнне

**coupon** [ˈkuːpɒn] *n.* **1.** купóн **2.** талóн

**courage** [ˈkʌrɪdʒ] *n.* мýжнасць, хрáбрасць, смéласць, адвáга; **unfaltering/unshaken courage** непахíсная мýжнасць; **master up/pluck up/summon up/take courage** мужáцца, сабрáць усю́ сваю́ мýжнасць ♦ **have the courage of one's convictions** мець грамадзя́нскую мýжнасць; **take one's courage in both hands** мабілізавáць усю́ сваю́ мýжнасць

**courageous** [kəˈreɪdʒəs] *adj.* мýжны, хрáбры, адвáжны, бясстрáшны

**courgette** [kɔːˈʒet] *n. BrE, bot.* кабачóк

**courier** [ˈkʊriə] *n.* **1.** кур'éр, пасы́льны **2.** *BrE* агéнт, які́ абслугóўвае туры́стаў у час падарóжжа

**course**[1] [kɔːs] *n.* **1.** курс (*лекцый, навучання, лячэння*); **a basic course** бáзавы курс; **an advanced course** курс павы́шанай ступéні ця́жкасці; **an intermediate course** курс сярэ́дняй ступéні ця́жкасці; **refresher courses** кýрсы павышэ́ння кваліфікáцыі **2.** стрáва; **a three-course dinner** абéд з трох страў **3.** курс, напрáмак, кірýнак, накірýнак; **hold/lay/set a course for** браць/узя́ць курс на, накірóўвацца на/у **4.** ход, хадá, цячэ́нне; **the course of events** ход падзéй; **as a matter of course** самó сабóй зразумéла ♦ **in due course** у свой час/у налéжны час; **in the course of** у хóдзе, у працэ́се, на праця́гу; **of course** вядóма, безумóўна, бясспрэ́чна

**course**[2] [kɔːs] *v. fml* (*пра вадкасць*) хýтка цячы́, бéгчы; *Tears coursed down her cheeks.* Слёзы цяклі па яе шчоках.

**court**[1] [kɔːt] *n.* **1.** суд; судóвы працэ́с **2. (the court)** сýддзі; **Supreme Court** Вышэ́йшы суд (*апеляцыйны суд па грамадзянскіх справах у Вялікабрытаніі*); **a court of appeal** апеляцы́йны суд; **a court of honour** суд гóнару; **open the court** пачáць судóвы працэ́с; **take smb. to court** падáць на кагó-н. у суд **3.** *sport* пляцóўка; **a tennis court** тэ́нісны корт **4. the court** двор (*караля*)

**court**[2] [kɔːt] *v.* **1.** дабівáцца (*чаго-н.*) ліслíвасцю, улáшчваць; **court popularity** дабівáцца папуля́рнасці; **court the voters** улáшчваць вы́баршчыкаў **2.** *fml* наклікáць (*на сябе*), выклікáць; **court danger/disaster** наклíкаць на сябé небяспéку/няшчáсце **3.** *dated* заляцáцца; **court a woman** заляцáцца да жанчы́ны

**court card** [ˈkɔːtkɑːd] *n. BrE* фігу́рная ка́рта
**courteous** [ˈkɜːtiəs] *adj.* ве́тлівы, пачці́вы, прыя́зны, даліка́тны
**courteously** [ˈkɜːtiəsli] *adv.* ве́тліва, пачці́ва, прыя́зна, даліка́тна; з паша́най, з пава́гай
**courtesy** [ˈkɜːtəsi] *n.* ве́тлівасць, пачці́васць, даліка́тнасць ♦ **(by) courtesy of smb.** з ла́скі каго́-н.
**courtier** [ˈkɔːtiə] *n. hist.* прыдво́рны
**court martial**[1] [ˌkɔːtˈmɑːʃl] *n.* вае́нны суд, трыбуна́л
**court-martial**[2] [ˌkɔːtˈmɑːʃl] *v.* аддава́ць пад вае́нны суд, пад трыбуна́л
**courtship** [ˈkɔːtʃɪp] *n. dated* заляца́нне, залёты (*да жанчыны*)
**courtyard** [ˈkɔːtjɑːd] *n.* уну́траны двор (*замка, палаца і да т.п.*); дзядзі́нец
**cousin** [ˈkʌzn] *n.* стрые́чны/дваю́радны брат; стрые́чная/дваю́радная сястра́
**cove** [kəʊv] *n.* невялі́кая бу́хта
**coven** [ˈkʌvn] *n.* збо́рышча ведзьмако́ў і ве́дзьмаў, ша́баш
**covenant** [ˈkʌvənənt] *n.* **1.** пагадне́нне, дамо́ва, дагаво́р **2.** *bibl.* запаве́т, заве́т; **Books of the Old and the New Covenant** Стары́ і Но́вы Запаве́т
**cover**[1] [ˈkʌvə] *n.* **1.** на́крыўка; накі́дка, чахо́л, каўпа́к **2.** во́кладка; **(to read) from cover to cover** (чыта́ць) ад во́кладкі да во́кладкі **3.** пакрыва́ла; по́сцілка **4.** по́крыў, по́крыва; укрыццё, прыкрыццё, схо́вішча; **take cover** знайсці́ схо́вішча, схава́цца **5.** канве́рт, паке́т; **under plain cover** у про́стым канве́рце, у канве́рце/бандэро́лі без фі́рменнага зна́ка; **under separate cover** у асо́бным канве́рце/паке́це **6.** *tech.* пакры́шка, шы́на **7.** прыбо́р (*сталовы*) ♦ **under cover** та́йна, сакрэ́тна; **under cover of** пад прыкрыццём, пад по́крывам
**cover**[2] [ˈkʌvə] *v.* **1.** накрыва́ць; засцілáць, пакрыва́ць; аху́тваць; закрыва́ць **2. (up)** скрыва́ць, хава́ць; уто́йваць (*пачуцці*); **cover up for smb**. *infml* пакрыва́ць, выгаро́джваць каго́-н.; **cover up one's nervousness** хава́ць нерво́знасць
**coverage** [ˈkʌvrɪdʒ] *n.* агля́д, асвятле́нне падзе́й (*у друку, па радыё, тэлебачанні*), рэпарта́ж, інфарма́цыя
**covering** [ˈkʌvərɪŋ] *n.* на́крыўка, по́крыўка, чахо́л, абало́нка
**covering letter** [ˌkʌvərɪŋˈletə] *n.* суправаджа́льны ліст, суправаджа́льнае пісьмо́
**covert** [ˈkʌvət] *adj. fml* скры́ты, завуалява́ны, та́йны, тае́мны, патае́мны; **a covert dislike** скры́тая непрыя́знасць; **a covert glance** по́зірк упо́тай; **covert reasons** скры́тыя прычы́ны; **a covert sneer/threat** скры́тая насме́шка/пагро́за
**covertly** [ˈkʌvətli] *adv. fml* скры́та, завуалява́на, та́йна
**cover-up** [ˈkʌvərʌp] *n.* уто́йванне, укрыва́нне, укрыццё (*чаго-н. ганебнага або крымінальнага*)
**covet** [ˈkʌvɪt] *v. fml* пра́гнуць; мо́цна жада́ць, хаце́ць; зайздро́сціць; дамага́цца
**covetous** [ˈkʌvɪtəs] *adj. fml* сква́пны, скупы́; пра́гны да бага́цця; хці́вы, зайздро́сны, зайздро́слівы
**covetousness** [ˈkʌvɪtəsnəs] *n. fml* сква́пнасць, ску́пасць; пра́гнасць; хці́васць, за́йздрасць
**cow**[1] [kaʊ] *n.* каро́ва; са́мка (*слана, кіта і да т.п.*) ♦ **till the cows come home** ве́льмі до́ўга
**cow**[2] [kaʊ] *v.* запу́жваць, запало́хваць, застра́шваць
**coward** [ˈkaʊəd] *n.* баязлі́вец
**cowardice** [ˈkaʊədɪs] *n.* баязлі́васць, маладу́шнасць, нясме́ласць
**cowardliness** [ˈkaʊədlɪnəs] *n.* баязлі́васць, маладу́шнасць, нясме́ласць
**cowardly** [ˈkaʊədli] *adj.* баязлі́вы, палахлі́вы, пужлі́вы, маладу́шны; **cowardly conduct** маладу́шныя паво́дзіны
**cowboy** [ˈkaʊbɔɪ] *n.* **1.** каўбо́й, пасту́х (*у Паўночнай Амерыцы*) **2.** *BrE, infml* несумле́нны чалаве́к у бізнесе
**cower** [ˈkaʊə] *v.* ску́рчвацца, згіна́цца (*ад страху, сораму*)
**cowslip** [ˈkaʊslɪp] *n. bot.* першацве́т, пры́мула
**coxswain** [ˈkɒksweɪn] *n.* **1.** рулявы́, стырнавы́ **2.** старшыня́ шлю́пкі
**coy** [kɔɪ] *adj.* **1.** сарамлі́вы, сарамя́жлівы, прытво́рна сці́плы (*асабліва пра жанчыну, якая прыкідваецца сарамлівай, каб прыцягнуць да сябе ўвагу*) **2. (about)** скры́тны
**coyly** [ˈkɔɪli] *adv.* сарамлі́ва, з прытво́рнай сці́пласцю
**coyness** [ˈkɔɪnəs] *n.* сарамлі́васць, прытво́рная сці́пласць
**coyote** [kɔɪˈəʊti] *n. zool.* каёт
**cozy** [ˈkəʊzi] *AmE* = **cosy**[2]
**crab** [kræb] *n.* **1.** краб **2.** мя́са кра́ба **3. the Crab** *astron.* Рак (*сузор'е*) **4. the Crab** *astrol.* Рак (*знак задыяка*; *чалавек, які нарадзіўся пад гэтым знакам*)
**crabby** [ˈkræbi] *adj. infml* сярдзі́ты, зло́сны; нездаво́лены; злаcлі́вы
**crack**[1] [kræk] *n.* **1.** трэ́шчына, раско́ліна, шчы́ліна **2.** трэск, гру́кат; пстры́канне, ля́сканне,

шчо́ўканне **3.** *infml* по́ўха, аплявýха **4.** *infml* грубава́ты жарт; саркасты́чная заўва́га **5.** *slang* крэк (*наркотык з ачышчанага какаіну, да якога пры ўжыванні вельмі хутка ўзнікае хваравітая цяга*) ♦ **at the crack of dawn** *infml* на світа́нні, до́світкам, на зо́лку; **have a crack at smth.** *infml* паспрабава́ць зрабіць што-н.

**crack²** [kræk] *adj. infml* цудо́ўны, надзвыча́йны, хва́цкі, ла́дны, першакла́сны, запра́ўскі; **a crack shot** першакла́сны страло́к; **a crack unit** *mil.* адбо́рная часць

**crack³** [kræk] *v.* **1.** раско́лваць, разбіва́ць; раско́лвацца, трэ́скацца, ло́пацца; **crack nuts** кало́ць арэ́хі **2.** шчо́ўкаць (*хлыстом*) **3.** *infml* ашале́ць, звар'яце́ць **4.** разгада́ць (*код*), вы́рашыць (*праблему*) ♦ **crack a bottle** *infml*. вы́піць што-н. спіртно́е, кульну́ць ча́рку; **crack a joke** адпусці́ць жарт

**crack down** [ˌkrækˈdaʊn] *phr.v.* **(on)** накі́нуцца, абру́шыцца (*на каго-н.*)

**cracker** [ˈkrækə] *n.* **1.** крэ́кер **2.** невялі́кі феерве́рк **3. : Christmas cracker** хлапу́шка

**crackers** [ˈkrækəz] *adj. BrE, infml* крану́ты, дурнава́ты

**crackle¹** [ˈkrækl] *n.* патрэ́скванне (*дроў*); трэск (*выстралаў*); хруст; **a loud crackle** мо́цны трэск; **the crackle of burning logs** патрэ́скванне пале́н у во́гнішчы

**crackle²** [ˈkrækl] *v.* патрэ́скваць, трашча́ць; хру́стаць, хрусце́ць

**crackling** [ˈkræklɪŋ] *n.* **1.** сква́рка, до́бра падсма́жаная свіні́на **2.** патрэ́скванне (*дроў*); трэск (*выстралаў*); хруст; **the crackling of the fire** патрэ́скванне во́гнішча/агню́

**crackpot¹** [ˈkrækpɒt] *n. infml* вар'я́т, шале́нец

**crackpot²** [ˈkrækpɒt] *adj. infml* шалёны, крану́ты; **crackpot ideas** шалёныя ідэ́і

**cradle¹** [ˈkreɪdl] *n.* **1.** калы́ска, лю́лька **2.** выто́кі, пача́так; **the cradle of civilisation** выто́кі цывіліза́цыі **3.** *tech.* ра́ма, апо́ра; калы́ска, лю́лька ♦ **from the cradle to the grave** усё жыццё

**cradle²** [ˈkreɪdl] *v.* калыха́ць, укалы́хваць, закалы́хваць, люля́ць; **cradle a baby in one's arms** калыха́ць/укалы́хваць дзіця́ на рука́х

**craft** [krɑːft] *n.* **1.** рамяство́ **2.** уме́льства, спры́тнасць, майстэ́рства; хі́трасць, хі́трыкі **3.** (*pl.* **craft**) су́дна; *The harbour was full of sailing craft.* У бухце было шмат суднаў. **4.** (*pl.* **craft**) самалёт, касмі́чны карабе́ль

**craftily** [ˈkrɑːftɪli] *adv.* хі́тра, кава́рна

**craftiness** [ˈkrɑːftɪnəs] *n.* хі́трасць, кава́рнасць, кава́рства

**craftsman** [ˈkrɑːftsmən] *n.* (*pl.* **-men**) **1.** ма́йстар; *The furniture was made by the finest craftsmen.* Мэбля была зроблена адмысловымі майстрамі. **2.** раме́снік

**craftsmanship** [ˈkrɑːftsmənʃɪp] *n.* **1.** майстэ́рства **2.** то́нкая рабо́та

**crafty** [ˈkrɑːfti] *adj.* хі́тры, кава́рны; **a crafty politician** хі́тры палі́тык; **as crafty as a fox** хі́тры як ліса́; *He is a crafty old devil.* Ён хітры як чорт.

**crag** [kræg] *n.* стро́мая скала́, уцёс

**craggy** [ˈkrægi] *adj.* **1.** скалі́сты, бага́ты ска́ламі **2.** круты́, стро́мкі, стро́мы **3.** грубава́ты, вуглава́ты (*твар*)

**cram** [kræm] *v.* **1. (into)** упі́хваць, упіха́ць; **cram clothes into a trunk** упі́хваць адзе́жу ў ку́фар; **cram people into a carriage** упі́хваць людзе́й у ваго́н **2.** перапаўня́ць; *The theatre was crammed.* Тэатр быў бітком набіты. **3.** *infml* **: cram a pupil for an examination** рыхтава́ць ву́чня да экза́мену **4.** наспе́х зазу́брываць; **cram for an examination** наспе́х зазу́брываць да экза́мену

**crammer** [ˈkræmə] *n. BrE, infml* кароткатэрміно́выя ку́рсы, які́я рыхту́юць да экза́мену; каро́ткі даве́днік (*па якой-н. дысцыпліне*)

**cramp¹** [kræmp] *n.* су́тарга, су́дарга; спа́зма; *The swimmer had an attack of cramp and had to be lifted from the water.* Плыўца звяла сутарга, і яго прыйшлося выцягнуць з вады.

**cramp²** [kræmp] *v.* **1.** звя́зваць, абмяжо́ўваць (*рух*); перашкаджа́ць (*развіццю*); зашіна́ць; звужа́ць, зву́жваць **2.** *tech.* змацо́ўваць скабо́й ♦ **cramp someone's style** *infml* абраза́ць кры́лле; звя́зваць па рука́х і нага́х; перашкаджа́ць каму́-н. по́ўнасцю праяві́ць сябе́

**cramped** [kræmpt] *adj.* **1.** сці́снуты (*аб прасторы*) **2.** неразбо́рлівы (*пра почырк*)

**cranberry** [ˈkrænbəri] *n.* жураві́ны; жураві́на

**crane¹** [kreɪn] *n.* **1.** *tech.* (пад'ёмны) кран **2.** жураве́ль, жо́раў

**crane²** [kreɪn] *v.* выця́гваць шыю (*каб лепш разгледзець што-н.*)

**cranefly** [ˈkreɪnflaɪ] *n. zool.* даўгано́жка

**crania** [ˈkreɪniə] *pl.* → **cranium**

**cranial** [ˈkreɪniəl] *adj. anat.* чарапны́

**cranium** [ˈkreɪniəm] *n.* (*pl.* **craniums** *or* **crania**) *anat.* чэ́рап

**crank¹** [kræŋk] *n. derog.* дзіва́к; дзіва́чка

**crank²** [kræŋk] *n. tech.* крывашы́п; кале́на, кале́нчаты рыча́г; завадна́я ру́чка (*аўтамабіля*)

**crank³** [kræŋk] *v.* **1.** заво́дзіць (*механізм*) ру́чкай **2. (up)** паскара́ць

**cranky** [ˈkræŋki] *adj. BrE, infml* **1.** дзівакава́ты, эксцэнтры́чны **2.** капры́зны, лёгка раздражня́льны

**cranny** [ˈkræni] *n.* шчы́ліна; трэ́шчына, раско́ліна ♦ **(poke into) every nook and cranny** шука́ць, загля́дваючы ў ко́жны кут/ко́жную шчы́ліну

**crash¹** [kræʃ] *n.* **1.** пало́мка; крушэ́нне, ава́рыя; **a car crash** аўтамабі́льная ава́рыя; **a plane crash** авіякатастро́фа; **a train crash** крушэ́нне цягніка́ **2.** гру́кат, трэск; **a crash of thunder** грымо́ты; **fall with a great/loud crash** ру́хнуць з мо́цным трэ́скам/гру́катам **3.** крах, банкру́цтва

**crash²** [kræʃ] *adj.* уда́рны, паско́раны, жо́рсткі; **a crash course in conversational French** паско́раны курс размо́ўнай францу́зскай мо́вы; **go on a crash diet** се́сці на жо́рсткую дые́ту

**crash³** [kræʃ] *v.* **1.** разбіва́ць; разбіва́цца **2.** па́даць з трэ́скам; валі́цца, разбура́цца **3.** грука-та́ць, гру́каць **4.** пацярпе́ць крах, абанкру́ціцца

**crash barrier** [ˈkræʃˌbærɪə] *n.* бар'е́р на аўтастра́дзе, які́ раздзяля́е пало́сы з процілеглым напра́мкам ру́ху

**crash helmet** [ˈkræʃˌhelmɪt] *n.* засцерага́льны шлем

**crash landing** [ˌkræʃˈlændɪŋ] *n.* вы́мушаная паса́дка

**crass** [kræs] *adj.* **1.** дурны́, неразу́мны, безразва́жны; **crass behaviour** неразу́мныя паво́дзіны **2.** по́ўны, абсалю́тны (*пра дурасць, некультурнасць і да т.п.*)

**crate** [kreɪt] *n.* кантэ́йнер

**crater** [ˈkreɪtə] *n.* кра́тар (*вулкана*); адту́ліна, упа́дзіна; **a lunar crater** кра́тар на Ме́сяцы

**crave** [kreɪv] *v.* **1. (for)** пра́гнуць, па́лка/го́рача жада́ць **2.** *dated* пра́сіць, упро́шваць; малі́ць

**crawl¹** [krɔ:l] *n.* **1.** по́ўзанне **2.** паво́льны рух; **go at a crawl** хадзі́ць/е́здзіць/ру́хацца паво́льна **3.** *sport.* кроль

**crawl²** [krɔ:l] *v.* **1.** по́ўзаць, паўзці́, пластава́ць **2.** цягну́цца, валачы́ся, паво́льна ру́хацца/перамяшча́цца **3. (with)** кішэ́ць; *The whole ground was crawling with ants.* Усё навокал кішэла мурашамі. **4. (to)** *infml* рабале́пстваваць, нізкапакло́ннічаць, по́ўзаць

**crayfish** [ˈkreɪfɪʃ] *n. zool.* рачны́ рак

**crayon** [ˈkreɪən] *n.* **1.** каляро́вая крэ́йда; каляро́вы ало́вак; пастэ́ль **2.** малю́нак пастэ́ллю

**craze** [kreɪz] *n.* мо́да, агу́льнае захапле́нне; **the latest craze** апо́шні крык мо́ды

**crazily** [ˈkreɪzɪli] *adv.* па-вар'я́цку; шалёна; утрапёна

**craziness** [ˈkreɪzɪnəs] *n.* вар'я́цтва; шале́нства, шал; утрапе́нне

**crazy** [ˈkreɪzi] *adj. infml* **1.** вар'я́цкі, звар'яце́лы; шалёны; утрапёны; **go crazy** звар'яце́ць; **drive/make smb. crazy** прыво́дзіць каго́-н. у шале́нства **2.** страшэ́нна захо́плены (*кім-н./чым-н.*); які́ стра́ціў ро́зум ад захапле́ння (*кім-н./чым-н.*); *He is crazy about football.* Ён страшэнна захапляецца футболам; *They were jazz crazy.* Яны страцілі розум ад захаплення джазам.

**crazy paving** [ˌkreɪziˈpeɪvɪŋ] *n.* брукава́нне без падбо́ру ка́меню

**creak¹** [kri:k] *n.* скрып, скрыпе́нне; рып, рыпе́нне

**creak²** [kri:k] *v.* скрыпе́ць, скры́паць; рыпе́ць, ры́паць

**creaky** [ˈkri:ki] *adj.* скрыпу́чы; рыпу́чы, рыплі́вы; **creaky stairs** скрыпу́чая/рыпу́чая ле́свіца

**cream** [kri:m] *n.* **1.** смята́нка, вяршкі́; **sour cream** смята́на; **whipped cream** узбітая смята́нка; **strawberries and cream** клубні́цы/труска́лкі са смята́нкай; **skim the cream from the milk** здыма́ць вяршкі́ з малака́ **2.** крэм; **chocolates with cream fillings** шакала́д з крэ́мавай начы́нкай **3.** крэм (*касметычны сродак*) **4.** са́мае ле́пшае, цвет, краса́ (*чаго-н.*); **the cream of society** цвет/краса́ грама́дства

**creamery** [ˈkri:mərɪ] *n.* маслабо́йня

**creamy** [ˈkri:mi] *adj.* **1.** крэ́мавы (*колер*) **2.** смята́нкавы, сметанко́вы

**crease¹** [kri:s] *n.* **1.** скла́дка **2.** згіб, загі́б, загі́н; *Her dress was full of creases.* У яе ўся сукенка памялася.

**crease²** [kri:s] *v.* **1.** рабі́ць скла́дкі; мя́цца, камя́чыцца (*пра тканіну*); *This material creases very easily.* Гэтая тканіна вельмі мнецца.

**create** [kriˈeɪt] *v.* **1.** ствара́ць, твары́ць **2.** выклі-ка́ць, рабі́ць

**creation** [kriˈeɪʃn] *n.* **1.** стварэ́нне **2.** сусве́т **3.** тварэ́нне, твор; **a creation of genius** гені́яльны твор, шэдэ́ўр **4. the Creation** *bibl.* стварэ́нне сусве́ту

**creative** [kriˈeɪtɪv] *adj.* ствара́льны, тво́рчы; крэатыў́ны; **creative abilities** тво́рчыя/ствара́льныя здо́льнасці; **creative writing** тво́рчая пра́ца, сачыне́нне

**creativity** [ˌkrieɪˈtɪvəti] *n.* ствара́льныя здо́льнасці, крэатыў́насць

**creator** [kriˈeɪtə] *n.* **1.** ствара́льнік, тво́рца, тварэ́ц **2. the Creator** Бог, Тварэ́ц

**creature** [ˈkri:tʃə] *n.* **1.** стварэ́нне, жыва́я істо́та; чалаве́к; **a lovely creature** чаро́ўнае стварэ́нне (*звыч. пра жанчыну*); **a poor creature** бе́днае/няшча́снае стварэ́нне **2.** крэату́ра; **creature comforts** зямны́я дабро́ты/вы́годы ♦ **a/**

**the creature of smb./smb.'s creature** *fml* (*чый-н.*) ста́ўленік

**creche** [kreʃ] *n. BrE* дзіця́чыя я́слі

**credence** [ˈkriːdns] *n. fml* ве́ра; даве́р, даве́р'е; **a letter of credence** рэкамендацы́йнае пісьмо́/рэкамендацы́йны ліст; **find credence** карыста́цца даве́рам; **give credence to smb.** аказа́ць даве́р'е каму́-н.; **refuse credence** адмо́віць у даве́р'і/даве́ры

**credentials** [krɪˈdenʃlz] *n. pl.* **1.** паслужны́ спіс; манда́т; пасве́дчанне **2.** *dipl.* вяры́цельныя гра́маты

**credibility** [ˌkredəˈbɪləti] *n.* праўдападо́бнасць; імаве́рнасць

**credible** [ˈkredəbl] *adj.* праўдападо́бны; імаве́рны; які́ заслуго́ўвае даве́ру; *It hardly seems credible.* Гэта наўрад ці заслугоўвае даверу./Гэта здаецца непраўдападобным.

**credibly** [ˈkredəbli] *adv.* напэ́ўна, пэ́ўна, дакла́дна; **be credibly informed that**... мець дакла́дныя зве́сткі аб тым, што...

**credit**[1] [ˈkredɪt] *n.* **1.** *comm.* крэды́т; **long/short-term credit** доўгатэрміно́вы/кароткатэрміно́вы крэды́т; **mortgage credit** іпатэ́чны крэды́т; **buy/sell on credit** купля́ць/прадава́ць у крэды́т **2.** ве́ра; даве́р, даве́р'е; **give credit to smth.** паве́рыць чаму-н. **3.** рэпута́цыя, до́брае імя́; *He is a man of credit.* Ён мае добрую рэпутацыю. **4.** го́нар, заслу́га; пахвала́; **be a credit to smb./smth.** быць го́нарам каго́-н./чаго́-н. **5.** *AmE* залі́к **6.** *pl.* **credits** спіс людзе́й, якíя дапамага́лі зняць кінафі́льм або́ зрабіць тэлеперада́чу ♦ **do smb. credit/do credit to smb.** рабі́ць го́нар каму́-н.

**credit**[2] [ˈkredɪt] *v.* **1.** крэдытава́ць **2.** прыпі́сваць; **credit smb. with a quality/with a feeling** прыпі́сваць каму́-н. яку́ю-н. я́касць/яко́е-н. пачуццё **3.** *infml* ве́рыць, давяра́ць **4.** *AmE* прыма́ць залі́к

**creditable** [ˈkredɪtəbl] *adj.* пахва́льны, які́ ро́біць го́нар

**credit card** [ˈkredɪtˌkɑːd] *n.* крэды́тная ка́ртка

**creditor** [ˈkredɪtə] *n.* крэдыто́р; **a mortgage creditor** іпатэ́чны крэдыто́р

**creed** [kriːd] *n.* **1.** крэ́да, пераканáнні, ве́ра; **political/religious creeds** паліты́чныя/рэлігі́йныя перакана́нні **2. the Creed** *relig.* веравызна́нне

**creek** [kriːk] *n.* **1.** невялі́кі залі́ў/невялі́кая бу́хта; ву́сце ракі́; рука́ў ракі́ **2.** *AmE* рачу́лка, руча́й ♦ **up the creek (without a paddle)** у кло́паце, у бядзе́

**creep**[1] [kriːp] *n. infml* падлі́знік, падлі́за, ліслі́вец ♦ **give smb. the creeps** *infml* даво́дзіць каго́-н. да дры́жыкаў

**creep**[2] [kriːp] *v.* **(crept) 1. (up)** падкра́двацца, падкрада́цца; непрыкме́тна надыхо́дзіць/набліжа́цца (*пра час, узрост*) **2.** по́ўзаць, паўзці́ **3.** ле́дзьве но́гі перастаўля́ць (*пра старых і хворых*) **4.** сла́цца, ві́цца (*пра расліны*) **5.** *infml* по́ўзаць, рабале́пстваваць, нізкапакло́нічаць; **creep into smb.'s favour** уце́рціся ў не́чую ла́ску **6.** адчу́ць мура́шкі па це́ле; скалану́цца, здрыгану́цца, задрыжа́ць (*ад страху, агіды*)

**creep in** [ˌkriːpˈɪn] *phr.v.* упаўза́ць; пракра́двацца, пракрада́цца

**creeper** [ˈkriːpə] *n. bot.* паво́йная раслі́на, раслі́на-паўзу́н

**creepy** [ˈkriːpi] *adj. infml* жу́дасны, жахлі́вы, стра́шны; які́ выклікáе стра́х; **a creepy story** апавяда́нне, ад яко́га маро́з па ску́ры/спі́не ідзе́

**cremate** [krɪˈmeɪt] *v.* крэмі́раваць, спа́льваць (*труп*)

**cremation** [krɪˈmeɪʃn] *n.* крэма́цыя, крэмі́раванне

**crematoria** [ˌkreməˈtɔːriə] *pl.* → **crematorium**

**crematorium** [ˌkreməˈtɔːriəm] *n.* (*pl.* **crematoria** *or* **crematoriums**) крэмато́рый

**Creole, creole** [ˈkriːəʊl] *n.* **1.** крэо́л; крэо́лка; **Creole cookery** крэо́льская ку́хня; **a Creole village** крэо́льская вёска **2.** крэалізава́ная мо́ва

**creosote** [ˈkriːəsəʊt] *n. chem.* крэазо́т

**crepe** [kreɪp] *n.* крэп (*тканіна*)

**crept** [krept] *past, p.p.* → **creep**[2]

**crescendo** [krɪˈʃendəʊ] *n. mus.* крэшчэ́нда

**crescent** [ˈkresnt] *n.* **1.** маладзі́к або́ ве́тах (*першая або апошняя чвэрць месяца*) **2.** то́е, што ма́е фо́рму паўме́сяца **3. the Crescent** паўме́сяц (*сімвал мусульманства*)

**cress** [kres] *n. bot.* крэс-сала́та

**crest** [krest] *n.* **1.** грэ́бень (*хвалі*, *узгорка і да т.п.*) **2.** грабе́ньчык (*пеўня*); чубо́к (*птушкі*) **3.** гры́ва **4.** аздабле́нне на ве́рсе ге́рбавага шчыта́ ♦ **on the crest of a/the wave** на грэ́бені хва́лі; на вяршы́ні сла́вы

**crestfallen** [ˈkrestfɔːlən] *adj.* які́ ўпа́ў ду́хам; прыгне́чаны, засму́чаны; зняве́раны

**cretin** [ˈkretɪn] *n.* **1.** *infml* ду́рань, бо́ўдзіла **2.** *med., dated* крэты́н

**cretinous** [ˈkretənəs] *adj.* недара́звіты, прыдуркава́ты

**crevasse** [krəˈvæs] *n. geol.* раско́ліна, рассе́ліна, глыбо́кая трэ́шчына (*звыч. ледавіка*)

**crevice** [ˈkrevɪs] *n.* шчы́ліна, раско́ліна (*у скале, сцяне і да т.п.*)

**crew** [kruː] *n.* **1.** экіпа́ж (*судна*, *самалёта і да т.п.*) **2.** ка́манда; **a racing crew** кама́нда па весла-

ва́нні **3.** брыга́да, арцéль рабóчых **4.** *infml* хéўра; ша́йка; хаўру́с, кампа́нія; **a disreputable/noisy crew** непрыстóйная/шу́мная кампа́нія
**crew cut** [ˈkruːkʌt] *n.* мужчы́нская карóткая стры́жка «вóжык»
**crewman** [ˈkruːmən] *n.* (*pl.* **-men**) член брыга́ды; член кама́нды (*карабля*); член экіпа́жа (*самалёта*)
**crib**[1] [krɪb] *n.* **1.** *AmE* дзіця́чы лóжак **2.** я́слі (*для жывёлы*); карму́шка **3.** *infml* шпарга́лка **4.** *infml* плагія́т
**crib**[2] [krɪb] *v. dated* карыста́цца шпарга́лкай, спі́сваць
**crick** [krɪk] *n.* расцяжэ́нне мы́шцаў/цяглі́ц (*шыйных, спінных)*
**cricket**[1] [ˈkrɪkɪt] *n. sport* крыкéт ♦ **not cricket!** *BrE, infml* не па пра́вілах!; несумлéнна!
**cricket**[2] [ˈkrɪkɪt] *n. zool.* цвырку́н
**cricketer** [ˈkrɪkɪtə] *n.* ігрóк у крыкéт
**crime** [kraɪm] *n.* злачы́нства; ліхадзéйства; **commit a crime** зрабі́ць/здзéйсніць злачы́нства
**criminal**[1] [ˈkrɪmɪnl] *n.* злачы́нец; злачы́нка
**criminal**[2] [ˈkrɪmɪnl] *adj.* злачы́нны, крыміна́льны; **the criminal code** крыміна́льны кóдэкс
**crimson** [ˈkrɪmzn] *adj.* малі́навы, цёмна-чырвóны, кармазі́навы
**crinkle** [ˈkrɪŋkl] *n.* **1.** вы́гіб, вы́гін; зві́ліна, заві́ліна **2.** маршчы́на, змóршчына; скла́дка
**crinkly** [ˈkrɪŋkli] *adj.* **1.** маршчы́ністы **2.** кучара́вы, хва́лісты (*пра валасы*)
**cripple**[1] [ˈkrɪpl] *n. dated* калéка, інвалі́д; пакалéчаны, знявéчаны
**cripple**[2] [ˈkrɪpl] *v.* калéчыць, нявéчыць, знявéчваць
**crises** [ˈkraɪsiːz] *n. pl.* → **crisis**
**crisis** [ˈkraɪsɪs] *n.* (*pl.* **crises**) **1.** кры́зіс; **a cabinet crisis** ура́давы кры́зіс; **an economic crisis** эканамі́чны кры́зіс **2.** крыты́чнае станóвішча, крыты́чны мóмант; паралóм **3.** *med.* кры́зіс; крыз
**crisp**[1] [krɪsp] *n.* **1.** *pl.* **crisps** *BrE* чы́псы, хру́сткія лу́стачкі бу́льбы; **a packet of crisps** пакéт чы́псаў **2.** хру́сткая скары́начка
**crisp**[2] [krɪsp] *adj.* **1.** свéжы, не вя́лы, цвёрды; **a crisp lettuce** свéжая сала́та **2.** хру́сткі, хру́мсткі, крóхкі **3.** свéжы, халаднава́ты; я́драны, падбадзёрлівы (*пра надвор'е, паветра*) **4.** рашу́чы, рэ́зкі (*пра манеры*) **5.** заві́ты, кучара́вы
**criss-cross**[1] [ˈkrɪskrɒs] *adj.* перакрыжава́ны, скрыжава́ны; **a criss-cross pattern** вы́шыўка кры́жыкам
**criss-cross**[2] [ˈkrɪskrɒs] *v.* перакрыжóўваць, скрыжóўваць; перакрыжóўвацца, скрыжóўвацца; пераплята́ць крыж-на́крыж
**criteria** [kraɪˈtɪəriə] *n. pl.* → **criterion**
**criterion** [kraɪˈtɪəriən] *n.* (*pl.* **criteria**) крытэ́рый
**critic** [ˈkrɪtɪk] *n.* кры́тык
**critical** [ˈkrɪtɪkl] *adj.* **1.** крыты́чны; **a critical analysis** крыты́чны ана́ліз; **be critical of smb.** крытыкава́ць каго́-н. **2.** выраша́льны, паралóмны, крыты́чны; **a critical moment** крыты́чны мóмант **3.** патрабава́льны, перабóрлівы
**critically** [ˈkrɪtɪkəli] *adv.* крыты́чна
**criticism** [ˈkrɪtɪsɪzəm] *n.* **1.** кры́тыка; **bitter/malicious criticism** рэ́зкая/злóсная кры́тыка **2.** крыты́чны разбóр
**criticize,** *BrE* **-ise** [ˈkrɪtɪsaɪz] *v.* крытыкава́ць; дава́ць крыты́чны ана́ліз
**critique** [krɪˈtiːk] *n.* крыты́чны разбóр, рэцэ́нзія, кры́тыка (*літаратурная*, *мастацкая*)
**croak**[1] [krəʊk] *n.* **1.** ква́канне **2.** ка́рканне
**croak**[2] [krəʊk] *v.* **1.** ква́каць **2.** ка́ркаць **3.** бурча́ць **4.** *infml* памéрці
**Croat** [ˈkrəʊæt] *n.* **1.** харва́т; харва́тка; **the Croats** харва́ты **2.** харва́цкая мóва
**Croatian**[1] [krəʊˈeɪʃn] *n.* **1.** харва́т; харва́тка **2.** харва́цкая мóва
**Croatian**[2] [krəʊˈeɪʃn] *adj.* харва́цкі
**crochet** [ˈkrəʊʃeɪ] *n.* вяза́нне абó вышыва́нне та́мбурам (*вочка ў вочка*)
**crock** [krɒk] *n. dated* гліня́ны збан/гаршчóк; глады́ш
**crockery** [ˈkrɒkəri] *n.* фая́нсавы пóсуд
**crocodile** [ˈkrɒkədaɪl] *n.* кракадзі́л ♦ **crocodile tears** кракадзі́лавы слёзы
**crocus** [ˈkrəʊkəs] *n.* **1.** *bot.* крóкус, шафра́н (*кветка*) **2.** ара́нжавы абó шафра́навы кóлер **3.** *tech.* крóкус (*паліравальны парашок*)
**croft** [krɒft] *n.* невялі́кая фéрма (*у Шатландыі*)
**crony** [ˈkrəʊni] *n. infml* блі́зкі, неразлу́чны ся́бар
**crook**[1] [krʊk] *n.* **1.** *infml* ашука́нец, прайдзісвéт, махля́р, круцéль **2.** вы́гіб, вы́гін, згіб **3.** крук, кручóк; гаплі́к, аплі́к **4.** кій; пóсах
**crook**[2] [krʊk] *v.* згіна́ць, згіба́ць; **crook one's arm/finger** сагну́ць руку́/па́лец
**crooked** [ˈkrʊkɪd] *adj.* **1.** крыві́, вы́гнуты, сагну́ты **2.** скры́ўлены, згóрблены **3.** несумлéнны, ганéбны; **crooked dealings** ганéбныя спра́вы
**croon** [kruːn] *v.* ці́ха і пяшчóтна спява́ць, напява́ць; **croon to oneself** напява́ць самóму сабé
**crooner** [ˈkruːnə] *n. dated* эстра́дны спява́к, шансанье́
**crop**[1] [krɒp] *n.* **1.** хлеб на кóрані; пасéвы; **out of crop** незасéяны, пад па́рам; **under crop** засéяны **2.** ураджа́й; жнівó; **a bumper/heavy crop** бага́ты ўраджа́й; **two crops of rice a year** два

ўраджа́і ры́су на год **3.** культу́ра; **industrial crops** тэхні́чныя культу́ры **4.** каро́ткая стры́жка **5.** *infml* мно́ства, бе́зліч, про́цьма; **a crop of questions** мно́ства пыта́нняў

**crop**[2] [krɒp] *v.* **1.** падстрыга́ць; падрэ́зваць, падраза́ць; зраза́ць, зрэ́зваць (*кветкі*) **2.** шчыпа́ць (*траву, лісце*) **3.** садзі́ць, саджа́ць, се́яць; **crop a field with wheat** засе́яць по́ле пшані́цай **4.** дава́ць ураджа́й; *The barley cropped well this year.* Ячмень добра ўрадзіў у гэтым годзе. **5.** збіра́ць ураджа́й; жаць; касі́ць

**crop up** [ˌkrɒpˈʌp] *phr.v.* нечака́на з'яўля́цца, узніка́ць

**croquet** [ˈkrəʊkeɪ] *n.* краке́т (*гульня*)

**cross**[1] [krɒs] *n.* **1.** крыж; **make one's cross/sign with a cross** паста́віць кры́жык (*замест подпісу*); **make the sign of the cross** перахрысці́цца; **International Red Cross** Міжнаро́дны Чырво́ны Крыж **2.** гібры́д, по́месь ♦ **have a (heavy) cross to bear** не́сці ця́жкі крыж

**cross**[2] [krɒs] *adj.* сярдзі́ты, злы, раззлава́ны; раздражнёны; **a cross answer** сярдзі́ты адка́з; **be cross with smb.** сердава́ць, злава́ць, злава́цца на каго́-н.; **make smb. cross** раззлава́ць, узлава́ць каго́-н.

**cross**[3] [krɒs] *v.* **1.** перасяка́ць; перахо́дзіць; пераязджа́ць; перапраўля́цца; **cross a road** перахо́дзіць даро́гу; **cross a river** перапраўля́цца це́раз раку́; **cross the finishing line** перасяка́ць фі́нішную лі́нію **2.** скрыжо́ўваць, скла́дваць/склада́ць на́крыж, перакрыжо́ўваць; **cross one's arms on one's breast** скрыжо́ўваць ру́кі на грудзя́х; **cross one's legs** скрыжо́ўваць но́гі **3.** скрыжо́ўвацца; перакрыжо́ўвацца; **at the spot where the roads cross** на ро́станях, на скрыжава́нні даро́г **4.** разміну́цца **5.** перашкаджа́ць; пярэ́чыць, супярэ́чыць; *He crosses me in everything.* Ён ва ўсім мне пярэчыць. ♦ **cross one's mind** прыйсці́ ў галаву́, прамільгну́ць у ду́мках; **cross smb.'s way** сустрэ́цца на чы́ім-н. жыццёвым шляху́; стаць каму́-н. по́перак даро́гі; **cross swords** скрыжава́ць мячы́/шпа́гі; пачына́ць паяды́нак; уступа́ць у спрэ́чку

**cross off** [ˌkrɒsˈɒf] *phr.v.* выкрэ́сліваць, выключа́ць са спі́саў

**cross out** [ˌkrɒsˈaʊt] *phr.v.* выкрэ́сліваць

**crossbar** [ˈkrɒsbɑː] *n.* **1.** папяро́чка, перакла́дзіна **2.** пла́нка; шта́нга (*футбольных варот*)

**crossbow** [ˈkrɒsbəʊ] *n. hist.* самастрэ́л; арбале́т

**cross-country**[1] [ˌkrɒsˈkʌntri] *n.* **: the cross-country** *sport* крос

**cross-country**[2] [ˌkrɒsˈkʌntri] *adj.* **1.** які́ прахо́дзіць напрасця́к/нацянькі́; які́ прахо́дзіць па перасе́чанай мясцо́васці; які́ прахо́дзіць праз усю́ краі́ну **2.** усюдыхо́дны, з павы́шанай прахо́днасцю; **a cross-country lorry** усюдыхо́д

**cross-examination** [ˌkrɒsɪɡˌzæmɪˈneɪʃn] *n. law* перакрыжава́ны до́пыт

**cross-examine** [ˌkrɒsɪɡˈzæmɪn] *v. law* рабі́ць (*каму-н.*) перакрыжава́ны до́пыт

**cross-eyed** [ˌkrɒsˈaɪd] *adj.* касаво́кі, касы́

**crossing** [ˈkrɒsɪŋ] *n.* **1.** перапра́ва **2.** скрыжава́нне; перахо́д; **a pedestrian/zebra crossing** зе́бра, пешахо́дны перахо́д (*з паласатай разметкай*)

**cross-legged** [ˌkrɒsˈleɡd] *adj., adv.* **: sit cross-legged** сядзе́ць са скрыжава́нымі нага́мі, сядзе́ць «па-турэ́цку»

**crossly** [ˈkrɒsli] *adv.* сярдзі́та, зло́сна

**crossness** [ˈkrɒsnəs] *n.* злaслі́васць, сварлі́васць

**crossroads** [ˈkrɒsrəʊdz] *n.* ро́стань, скрыжава́нне даро́г ♦ **at a/the crossroads** на скрыжава́нні даро́г, на ро́станях

**cross section** [ˈkrɒsˌsekʃn] *n.* **1.** папяро́чнае сячэ́нне, папяро́чны разрэ́з **2.** зрэз

**crosswise** [ˈkrɒswaɪz] *adv.* **1.** на́крыж, крыж-на́крыж, крыжападо́бна **2.** упо́перак, напо́перак **3.** няпра́вільна, памылко́ва

**crossword** [ˈkrɒswɜːd] *n.* крыжава́нка, красво́рд; **do a/the crossword** разга́дваць красво́рд

**crotch** [krɒtʃ] *n.* **1.** *anat.* праме́жнасць **2.** развí́лка, развí́лак

**crotchet** [ˈkrɒtʃɪt] *n.* **1.** крук, кручо́к **2.** фанта́зія; дзіва́цтва; капры́з **3.** *BrE, mus.* чвэ́рцевая но́та

**crouch** [kraʊtʃ] *v.* **1.** згіна́цца, згіба́цца **2.** прысяда́ць; прыпада́ць да зямлі́ (*перад скачком*)

**crow**[1] [krəʊ] *n.* варо́на ♦ **a white crow** бе́лая варо́на; **a crow's foot** маршчы́нка (*у куточках вачэй*); **a crow's nest** *naut.* варо́ніна гняздо́ (*назіральны пункт*); **as the crow flies** па прамо́й (*лініі*)

**crow**[2] [krəʊ] *v.* **1.** кукарэ́каць **2.** *derog.* **(about)** хвалі́цца, выхваля́цца

**crowbar** [ˈkrəʊbɑː] *n. tech.* лом, падва́га

**crowd**[1] [kraʊd] *n.* **1.** нато́ўп, гурт; **push one's way through the crowd** прабіра́цца праз нато́ўп **2.** *infml* кампа́нія, грамада́ **3. the crowd** про́сты люд ♦ **stand out from the crowd** вылуча́цца з нато́ўпу

**crowd**[2] [kraʊd] *v.* **1.** то́ўпіцца, стая́ць нато́ўпам, ці́снуцца **2.** біткó́м набі́цца; запо́ўніць, перапо́ўніць (*якую-н. прастору*) **3.** ці́снуць, напіра́ць

**crowded** [ˈkraʊdɪd] *adj.* **(with)** напо́ўнены; шматлю́дны; набі́ты біткó́м

**crown**[1] [kraʊn] *n.* **1.** каро́на, вяне́ц; **the Crown** ула́да мана́рха **2.** вяно́к (*з кветак*) **3.** кро́на (*манета*) **4.** вяршы́ня, вершалі́на, верхаві́на (*чаго-н.*); ма́каўка (*галавы*) **5.** каро́нка (*зуба*)

**crown**[2] [kraʊn] *v.* **1.** каранава́ць **2.** *fml.* уве́нчваць **3.** завярша́ць ♦ **to crown it all** *BrE, infml* у дада́так да ўсяго́

**crucial** [ˈkruːʃl] *adj.* **1. (to/for)** рашу́чы, раша́ючы, выраша́льны; **at the crucial moment** у рашу́чы/крыты́чны мо́мант **2.** *anat.* крыжападо́бны

**crucifix** [ˈkruːsɪfɪks] *n.* **1.** распя́цце **2.** крыж (*сімвал хрысціянства*)

**crucifixion** [ˌkruːsəˈfɪkʃn] *n.* **1.** распя́цце, распіна́нне, укрыжава́нне **2. the Crucifixion** распя́цце Хрыста́

**crucify** [ˈkruːsɪfaɪ] *v.* **1.** распіна́ць, раскрыжо́ўваць **2.** *infml* му́чыць

**crude** [kruːd] *adj.* **1.** гру́бы; недаліка́тны; няве́тлівы; **crude behaviour/manners/methods** гру́быя паво́дзіны/мане́ры/ме́тады; **crude language** гру́бая мо́ва **2.** сыры́, неапрацава́ны; **crude oil** сыра́я на́фта

**cruel** [ˈkruːəl] *adj.* **1. (to)** жо́рсткі; лю́ты, бязлі́тасны **2.** паку́тлівы, нясце́рпны, страшэ́нны; пяке́льны

**cruelly** [ˈkruːəli] *adv.* **1.** жо́рстка; бязлі́тасна **2.** паку́тліва, нясце́рпна

**cruelty** [ˈkruːəlti] *n.* жо́рсткасць; бязлі́таснасць, лю́тасць

**cruise**[1] [kruːz] *n.* падаро́жжа па мо́ры, пла́ванне, круі́з; **a round-the-world cruise** кругасве́тнае пла́ванне; **go on a cruise** адпраўля́цца ў круі́з

**cruise**[2] [kruːz] *v.* курсі́раваць, рабі́ць рэ́йсы па пэ́ўным маршру́це

**cruise missile** [ˌkruːzˈmɪsaɪl] *n.* крыла́тая раке́та

**cruiser** [ˈkruːzə] *n.* **1.** крэ́йсер **2.** прагу́лачны ка́тар

**crumb** [krʌm] *n.* **1.** кро́шка (*хлеба, торта і да т.п.*); **make crumbs** крышы́цца **2.** крупі́нка (*перан.*); **crumbs of information/knowledge** крупі́нкі інфарма́цыі/ве́даў

**crumble** [ˈkrʌmbl] *v.* **1.** крышы́ць; крышы́цца; драбні́ць; таўчы́, расціра́ць; **crumble bread** крышы́ць хлеб **2.** рассыпа́цца; разбура́цца; разбу́рвацца; гі́нуць

**crumbly** [ˈkrʌmbli] *adj.* кро́хкі, рассы́пісты, ры́хлы

**crumpet** [ˈkrʌmpɪt] *n.* *BrE* здо́бная бу́лачка

**crumple** [ˈkrʌmpl] *v.* **1.** мяць, камячы́ць, каме́чыць; **crumple one's clothes** пакамячы́ць адзе́нне **2.** мя́цца, камячы́цца; каме́чыцца; *This cloth crumples easily*. Гэтая тканіна лёгка камечыцца. **3.** зваլі́цца, упа́сці

**crunch**[1] [krʌntʃ] *n.* хруст; скрып; трэск

**crunch**[2] [krʌntʃ] *v.* **1.** гры́зці, жава́ць з хру́стам **2.** хрусце́ць, храбусце́ць (*на зубах*); скрыпе́ць (*пад нагамі, пад калёсамі*)

**crunchy** [ˈkrʌntʃi] *adj.* хру́сткі, храбусткі́; **a crunchy salad** хру́сткая сала́та

**crusade**[1] [kruːˈseɪd] *n.* **1.** *hist.* крыжо́вы пахо́д **2.** кампа́нія ў абаро́ну (*чаго-н.*); пахо́д су́праць (*чаго-н.*); **a crusade for women's rights** кампа́нія па барацьбе́ за правы́ жанчы́н

**crusade**[2] [kruːˈseɪd] *v.* **1.** *hist.* удзе́льнічаць у крыжо́вым пахо́дзе **2.** ве́сці кампа́нію, змага́цца (*за што-н. або супраць чаго-н.*)

**crusader** [kruːˈseɪdə] *n.* **1.** *hist.* крыжано́сец, крыжа́к **2.** удзе́льнік грама́дскай кампа́ніі (*за або супраць чаго-н.*)

**crush**[1] [krʌʃ] *n.* **1.** вялі́кі нато́ўп; тлум **2.** цісканіна, таўкатня́ **3.** фрукто́вы сок **4.** мо́цнае і каро́ткае захапле́нне; **have a crush on smb.** мо́цна захапля́цца кім-н.

**crush**[2] [krʌʃ] *v.* **1.** мяць, камячы́ць **2.** ці́снуць, душы́ць, расціска́ць **3.** знішча́ць, ні́шчыць, падаўля́ць

**crushing** [ˈkrʌʃɪŋ] *adj.* скрыша́льны; знішча́льны, зруйнава́льны, разбура́льны; **a crushing defeat** ця́жкае паражэ́нне, разгро́м

**crust** [krʌst] *n.* **1.** скары́нка, скары́начка **2.** кара́ **the earth's crust** зямна́я кара́ **3.** шарпа́к, шаро́н

**crustacean** [krʌˈsteɪʃn] *n. zool.* ракападо́бны

**crusty** [ˈkrʌsti] *adj.* **1.** які́ пакры́ты ко́ркай, скары́нкай (*пра ежу*) **2.** *infml* раздражня́льны, зласлі́вы; сварлі́вы (*пра чалавека*)

**crutch** [krʌtʃ] *n.* **1.** мы́ліца; **go on crutches** хадзі́ць на мы́ліцах **2.** *anat.* праме́жнасць

**cry**[1] [kraɪ] *n.* **1.** плач, енк; **have a good cry** вы́плакацца **2.** крык, вы́крык, во́кліч; **a cry for help** крык аб дапамо́зе; **a cry of pain** крык бо́лю; **give a cry** ускры́кнуць, закрыча́ць **3.** кліч, за́клік **4.** рэ́зкі гук, які́ ўтвара́ецца пту́шкамі ♦ **a far cry (from)** вялі́кая ро́зніца; вялі́кая адле́гласць

**cry**[2] [kraɪ] *v.* **1.** пла́каць, е́нчыць; **cry bitter tears** пла́каць го́ркімі слязьмі́; **cry for joy** пла́каць ад ра́дасці; **cry oneself to sleep** пла́каць, паку́ль не заснёш **2. (for smth.)** патрабава́ць што-н., насто́йліва дабіва́цца чаго́-н. **3.** крыча́ць, раўці́, лямантава́ць; **cry at the top of one's voice** крыча́ць на ўсё го́рла, крыча́ць не́ма **4.** кры́кнуць, ускры́кнуць, вы́гукнуць **5. (over)** апла́кваць ♦ **cry one's eyes/**

**heart out** вы́плакаць (усé) вóчы; **cry for the moon** жадáць абó патрабавáць немагчы́мага; **cry over spilt milk** *BrE* марнавáць час

**cry off** [ˌkraɪˈɒf] *phr.v. BrE, infml* адмóвіцца ад намéру

**cry out** [ˌkraɪˈaʊt] *phr.v.* **(against)** пратэставáць, выкáзваць пратэ́ст

**crying** [ˈkraɪɪŋ] *adj.* **1.** які́ крычы́ць, які́ плáча **2.** недапушчáльны, абурáльны **3.** неадклáдны, безадклáдны

**crypt** [krɪpt] *n.* склеп, кры́пта (*у царкве, касцёле і да т.п.*)

**cryptic** [ˈkrɪptɪk] *adj.* схавáны; утóены, скры́ты; таямні́чы, таéмны

**crystal** [ˈkrɪstl] *n.* крыштáль (*у розных значэннях*)

**crystal clear** [ˌkrɪstlˈklɪə] *adj.* **1.** празры́сты; чы́сты, як крыштáль (*пра ваду, шкло і да т.п.*) **2.** зразумéлы; відавóчны, я́ўны

**crystal gazing** [ˈkrɪstlˌgeɪzɪŋ] *n.* варажбá/гадáнне з дапамóгай «магі́чнага крышталя́»

**crystalline** [ˈkrɪstəlaɪn] *adj.* **1.** крышталі́чны, крышталёвы **2.** крыштáльны **3.** *fml* празры́сты

**crystallize,** *BrE* **-ise** [ˈkrɪstəlaɪz] *v.* **1.** крышталізавáць; крышталізавáцца **2.** выкрышталізóўваць; выкрышталізóўвацца, надавáць/прымáць вырáзную ўстóйлівую фóрму

**CSE** [ˌsiːesˈiː] (*скар. ад* **Certificate of Secondary Education**) (*у Брытаніі*) экзáмен на атрымáнне пасвéдчання аб няпóўнай сярэ́дняй адукáцыі, які́ існавáў да 1988 гóда

**cub** [kʌb] *n.* дзіцяня́; дзіцянё (*звера*); **a wolf cub** ваўчаня́; ваўчанё

**Cuban¹** [ˈkjuːbən] *n.* кубі́нец; кубі́нка; **the Cubans** кубі́нцы

**Cuban²** [ˈkjuːbən] *adj.* кубі́нскі

**cubby-hole** [ˈkʌbihəʊl] *n.* камóра

**cube¹** [kjuːb] *n. math.* **1.** куб (*геаметрычнае цела*) **2.** куб, трэ́цяя ступéнь лі́ку; *The cube of 3 is 27.* 3 у кýбе рóўна 27; **a cube root** кубі́чны кóрань

**cube²** [kjuːb] *v.* **1.** *math.* узвóдзіць у куб/у трэ́цюю ступéнь; *3 cubed is 27.* 3 у кýбе рóўна 27. **2.** разразáць (*што-н.*) на кавáлкі кубі́чнай фóрмы

**cubic** [ˈkjuːbɪk] *adj.* кубі́чны; **cubic content** аб’ём, кубатýра; **a cubic foot** кубі́чны фут; **a cubic metre** кубі́чны метр

**cubicle** [ˈkjuːbɪkl] *n.* кабі́на (*невялікае памяшканне спецыяльнага прызначэння*); прымéрачная (*у магазіне*); **a changing cubicle** *BrE* раздзявáльня (*у басейне*)

**cuckoo** [ˈkʊkuː] *n. zool.* зязю́ля

**cucumber** [ˈkjuːkʌmbə] *n.* агурóк, гурóк ♦ **(as) cool as a cucumber** спакóйны, стры́маны

**cud** [kʌd] *n.* жвáчка, жвáка; **chew the cud** жавáць жвáчку (*пра жвачных жывёл*); *перан.* паражóўваць аднó і тóе ж

**cuddle¹** [ˈkʌdl] *n.* абды́мкі; **give smb. a cuddle** абдымáць кагó-н.

**cuddle²** [ˈkʌdl] *v.* прыцíскáць да сябé, мóцна абдымáць; **cuddle a baby in one’s arms** прыцíскáць да сябé/да сваі́х грудзéй дзіця́

**cuddly** [ˈkʌdli] *adj. infml* прывáбны, прыцягáльны, чарóўны

**cue¹** [kjuː] *n.* **1.** *theatre* рэ́пліка **2.** намёк ♦ **give smb. a cue** намякнýць/падказáць камý-н., што рабі́ць абó гавары́ць; **take one’s cue from smb.** зразумéць чый-н. намёк

**cue²** [kjuː] *n.* кій (*більярдны*)

**cuff¹** [kʌf] *n.* **1.** манжэ́т(а) (*рукава*) **2.** *AmE* манжэ́та (*калошы штаноў*) **3.** *pl.* **cuffs** *infml* (*скар. ад* **handcuffs**) нарýчнікі ♦ **off the cuff** без падрыхтóўкі, экспрóмтам

**cuff²** [kʌf] *n.* лёгкі ўдáр (*рукой па твары, галаве*), аплявýха, пóўха

**cuff³** [kʌf] *v.* даць аплявýху, аплявýшыць, даць пóўху

**cuisine** [kwɪˈziːn] *n.* кýхня; **Italian cuisine** італья́нская кýхня

**cul-de-sac** [ˈkʌldəsæk] *n.* тупі́к, глухі́ завýлак

**culminate** [ˈkʌlmɪneɪt] *v. fml* **(in/with)** дасягáць найвышэ́йшага пýнкта; прывóдзіць (*у сваім развіцці*) да, завяршáцца; **culminate in total victory/bankruptcy** завяршы́цца пóўнай перамóгай/банкрýцтвам

**culmination** [ˌkʌlmɪˈneɪʃn] *n. fml* кульміна́цыя, найвышэ́йшы мóмант/перы́яд (*у развіцці чаго-н.*)

**culpable** [ˈkʌlpəbl] *adj. fml* вінавáты; які́ заслугóўвае пакарáння; **culpable negligence** злачы́нная нядбáйнасць; **hold smb. culpable** лічы́ць кагó-н. вінавáтым

**culprit** [ˈkʌlprɪt] *n.* **1.** вінавáты; вінавáтая; злачы́нец, злачы́нца; злачы́нка **2.** *law* абвінавáчаны; абвінавáчаная; падсýдны; падсýдная

**cult** [kʌlt] *n.* **1.** культ **2.** сляпóе паклянéнне, абагаўлéнне

**cultivate** [ˈkʌltɪveɪt] *v.* **1.** абрабля́ць, урабля́ць, апрацóўваць, культывавáць (*глебу, зямлю*) **2.** вырóшчваць, развóдзіць, культывавáць **3.** развівáць, паляпшáць, спрыя́ць (*развіццю чаго-н.*); **cultivate the mind** развівáць інтэлéкт **4.** дамагáцца, дабівáцца сябрóўства/прыхі́льнасці

(*каго-н.*); *He cultivates the sort of people who can be useful to him.* Ён дамагаецца сяброўства з тымі, ад каго можа мець якую-небудзь карысць.

**cultivated** [ˈkʌltɪveɪtɪd] *adj.* **1.** культу́рны, развіты́ (*чалавек, розум, густ і да т.п.*) **2.** культу́рны, які́ выро́шчваецца/разво́дзіцца (*пра расліны*)

**cultivation** [ˌkʌltɪˈveɪʃn] *n.* **1.** апрацо́ўка (*глебы*), культыва́цыя **2.** выро́шчванне, развядзе́нне (*раслін*)

**cultivator** [ˈkʌltɪveɪtə] *n.* **1.** земляро́б **2.** культыва́тар

**cultural** [ˈkʌltʃərəl] *adj.* культу́рны, які́ ма́е адно́сіны да культу́ры; **cultural activities** культу́рная дзе́йнасць; **a cultural centre** культу́рны цэнтр

**culture** [ˈkʌltʃə] *n.* **1.** культу́ра; **ancient culture** старажы́тная культу́ра; **a consumer culture** культу́ра спажыва́ння; **popular culture** поп-культу́ра; **the Minister for Culture** міні́стр культу́ры **2.** развядзе́нне (*рыбы, вустрыц, вінаграднай лазы і да т.п.*) **3.** *biol.* культу́ра (*бактэрый, клетак*)

**cultured** [ˈkʌltʃəd] *adj.* **1.** культу́рны, развіты́, адукава́ны; **a cultured mind** развіты́ інтэле́кт; **a highly cultured man** чалаве́к высо́кай культу́ры **2.** гадава́ны, які́ разво́дзіцца/выро́шчваецца; **cultured pearls** вы́рашчаны жэ́мчуг

**cumbersome** [ˈkʌmbəsəm] *adj.* **1.** груба́сткі, гру́зны, вялі́кі **2.** мару́дны і цяжкі́ **3.** до́ўгі, ця́жкі (*пра слова, выраз і да т.п.*)

**cumulative** [ˈkjuːmjələtɪv] *adj.* назапа́шаны, назбіра́ны, сабра́ны; супо́льны, кумуляты́ўны; **a cumulative effect** кумуляты́ўны эфе́кт

**cunning**[1] [ˈkʌnɪŋ] *n.* хі́трасць, хі́трыкі; кава́рнасць, кава́рства, верало́мства

**cunning**[2] [ˈkʌnɪŋ] *adj.* хі́тры; кава́рны, верало́мны

**cup**[1] [kʌp] *n.* **1.** ку́бак; зме́сціва ку́бка; **a china cup** фарфо́равы ку́бак; **a cup of tea** ку́бачак ча́ю **2.** ке́ліх, ча́рка, ча́ша **3.** доля, лёс; **a bitter cup** го́ркая до́ля **4.** вы́піўка **5.** *sport* ку́бак; **win the cup** вы́йграць ку́бак **6.** што-не́будзь у фо́рме ку́бка; **the cup of a flower** ча́шачка кве́ткі ♦ **in one's cups** *dated* падпі́ты, пад ча́ркай; **not my cup of tea** *infml* не то́е, што мне падаба́ецца/падыхо́дзіць/пасу́е; **there's many a slip between the cup and the lip** ≅ не кажы́ гоп, паку́ль не пераско́чыш

**cup**[2] [kʌp] *v.* **1.** прыдава́ць (*далоням*) фо́рму ку́бка, згіба́ць ру́кі ў кісця́х **2.** *med.* ста́віць ба́нькі

**cupboard** [ˈkʌbəd] *n.* ша́фа ♦ **a skeleton in the cupboard** сяме́йная та́йна; **cupboard love** кары́слівая любо́ў

**cupful** [ˈkʌpfʊl] *n.* по́ўны ку́бак (*чаго-н.*)

**curable** [ˈkjʊərəbl] *adj.* выле́чны

**curate** [ˈkjʊərət] *n. relig.* памо́чнік прыхо́дскага святара́, віка́рый

**curative** [ˈkjʊərətɪv] *adj. fml* гаю́чы, які́ аздараўля́е; лячэ́бны; **curative air** гаю́чае паве́тра

**curator** [kjʊəˈreɪtə] *n.* захава́льнік; захава́льніца (*музея*)

**curb**[1] [kɜːb] *n.* або́чына (*тратуара*), бро́ўка

**curb**[2] [kɜːb] *v.* утаймо́ўваць, уціхамі́рваць; стры́млівацъ, супако́йваць

**curd** [kɜːd] *n.* тваро́г

**curdle** [ˈkɜːdl] *v.* **1.** згушча́ць; згушча́цца; згортваць; зго́ртвацца (*пра малако, кроў*) **2.** ледзяні́ць (*кроў*); сты́нуць (*пра кроў*) ♦ **curdle smb.'s blood** ледзяні́ць кроў, наво́дзіць жах

**cure**[1] [kjʊə] *n.* **1.** ле́кі, ляка́рства; сро́дак; **a cure for a cough** сро́дак ад ка́шлю **2.** лячэ́нне, курс лячэ́ння; **a rest cure** лячэ́нне адпачы́нкам **3.** вылячэ́нне

**cure**[2] [kjʊə] *v.* **1. (of)** выле́чваць, лячы́ць; **cure smb. of bad habits** адвучы́ць каго́-н. ад дрэ́нных звы́чак **2.** нарыхто́ўваць, кансервава́ць; **cure fish** вэ́ндзіць ры́бу ♦ **what can't be cured must be endured** прыхо́дзіцца міры́цца з тым, што не́льга вы́правіць

**cure-all** [ˈkjʊərɔːl] *n.* панацэ́я, сро́дак ад усі́х хваро́баў

**curfew** [ˈkɜːfjuː] *n.* каменда́нцкая гадзі́на

**curiosity** [ˌkjʊəriˈɒsəti] *n.* **1. (about)** ціка́ўнасць, дапы́тлівасць; ціка́васць, заціка́ўленасць **2.** рэ́дкасць, антыква́рная рэч, рарытэ́т ♦ **curiosity killed the cat** ≅ ціка́ўнасць да дабра́ не даво́дзіць

**curious** [ˈkjʊəriəs] *adj.* **1. (about)** ціка́ўны, дапы́тлівы; ціка́вы **2.** дзі́ўны, кур'ёзны

**curiously** [ˈkjʊəriəsli] *adv.* **1.** з ціка́васцю, з інтарэ́сам **2.** дзі́ўна

**curl**[1] [kɜːl] *n.* **1.** ку́дзер, ло́кан **2.** заві́ўка **3.** завіто́к, завіту́шка; спіра́ль; **curls of smoke** ко́льцы ды́му

**curl**[2] [kɜːl] *v.* **1.** ві́цца, заві́вацца **2.** заві́ваць **3.** скру́чвацца

**curl up** [ˌkɜːlˈʌp] *phr.v.* ску́рчвацца; скру́чвацца ў клубо́к

**curler** [ˈkɜːlə] *n. звыч. pl.* **curlers** бігудзі́

**curly** [ˈkɜːli] *adj.* **1.** кучара́вы; **curly hair** кучара́выя валасы́, ку́чары, ку́дзеркі **2.** хва́лісты (*пра лінію*); вы́гнуты, сагну́ты

**currant** [ˈkʌrənt] *n.* **1.** *pl.* **currants** кары́нка (*чорны дробны сушаны вінаград без коста-*

*чак*) **2.** парэ́чкі (*кустовая ягадная расліна*); **black/red/white currants** чо́рныя/чырво́ныя/бе́лыя парэ́чкі

**currency** [ˈkʌrənsi] *n.* **1.** валю́та; гро́шы; **foreign currency** заме́жная валю́та; **gold currency** залата́я валю́та; **hard currency** канверсі́йная валю́та; **paper currency** папяро́выя гро́шы; **soft currency** неканверсі́йная валю́та; **currency exchange** абме́н валю́ты **2.** грашо́вы абаро́т **3.** ужыва́льнасць, ужы́тнасць; **give currency to smth.** распаўсю́джваць што-н.; *This word is in common currency.* Гэтае слова вельмі часта ўжываецца.

**current¹** [ˈkʌrənt] *n.* **1.** цячэ́нне, плынь; пато́к, струме́нь (*пра ваду, паветра*) **2.** *electr.* ток; **alternating current** пераме́нны ток; **direct current** пастая́нны ток **3.** плынь, цячэ́нне, ход (*пра падзеі, думкі*)

**current²** [ˈkʌrənt] *adj.* **1.** цяпе́рашні, суча́сны; **current affairs** суча́сныя грама́дска-палі́ты́чныя падзе́і; **current events** суча́сныя падзе́і; **the current issue of a magazine** ну́мар часо́піса за гэ́ты ме́сяц/чарго́вы ну́мар часо́піса; **the current price** існу́ючая цана́; **the current year** гэ́ты год; **her current boyfriend** яе́ цяпе́рашні/чарго́вы кавале́р **2.** распаўсю́джаны; **a current opinion** агульнапрыня́тая ду́мка

**current account** [ˈkʌrəntəˌkaʊnt] *n. finance* бягу́чы раху́нак

**currently** [ˈkʌrəntli] *adv.* у цяпе́рашні час, у суча́сны мо́мант

**curricula** [kəˈrɪkjələ] *n. pl.* → **curriculum**

**curriculum** [kəˈrɪkjələm] *n.* (*pl.* **curricula** *or* **curriculums**) **1.** навуча́льны/вучэ́бны план (*школы, каледжа, універсітэта*) **2.** курс навуча́ння

**curriculum vitae** [kəˌrɪkjələmˈviːtaɪ] *n.* (*pl.* **curricula vitae**) каро́ткая біягра́фія, аўтабіяграфі́чныя зве́сткі, жыццяпі́с

**curry¹** [ˈkʌri] *n.* **1.** ка́ры (*вострая прыправа*) **2.** стра́ва, прыпра́ўленая ка́ры

**curry²** [ˈkʌri] *v.* чы́сціць каня́ ♦ **curry favour (with) smb.** паддо́брывацца, падла́шчвацца, падлі́звацца да каго́-н.

**curse¹** [kɜːs] *n.* **1.** непрысто́йнае сло́ва, ла́янка **2.** праклён **3.** бе́дства; *Greenfly is a curse to gardeners.* Тля проста гора для садоўнікаў.

**curse²** [kɜːs] *v.* **1.** пракліна́ць, клясці́; *She is cursed with a violent temper.* Прырода надзяліла яе нястрыманым характарам. **2.** ла́яць; ла́яцца

**cursed** [kɜːst] *adj.* **1.** праклятыя, акая́нны **2.** [ˈkɜːsɪd] *dated* агі́дны, ненаві́сны

**cursive** [ˈkɜːsɪv] *n.* рукапі́сны шрыфт; курсі́ў

**cursor** [ˈkɜːsə] *n. comput.* курсо́р

**cursory** [ˈkɜːsəri] *adj.* бе́глы, павярхо́ўны; зро́блены на хапо́к

**curt** [kɜːt] *adj.* рэ́зкі; каро́ткі, сці́слы (*пра адказ*)

**curtail** [kɜːˈteɪl] *v. fml* скарача́ць; ураза́ць, урэ́зваць

**curtailment** [kɜːˈteɪlmənt] *n. fml* скарачэ́нне, змяншэ́нне

**curtain** [ˈkɜːtn] *n.* **1.** фіра́нка; **close/draw/pull the curtains** зашмо́ргваць/заве́шваць фіра́нку; **draw/draw back/pull back the curtains** адшмо́ргваць/адве́шваць фіра́нку **2.** *pl.* **curtains** што́ры **3.** засло́на (*у тэатры*); **the curtain falls/rises at eight sharp** засло́на апуска́ецца/ падыма́ецца ро́ўна ў во́сем гадзі́н ♦ **the final curtain** кане́ц, смерць

**curts(e)y¹** [ˈkɜːtsi] *n.* рэвера́нс; **drop a curts(e)y** рабі́ць рэвера́нс

**curts(e)y²** [ˈkɜːtsi] *v.* рабі́ць рэвера́нс

**curvature** [ˈkɜːvətʃə] *n. tech.* крывізна́, скрыўле́нне; **curvature of the spine** *med.* скрыўле́нне пазвано́чніка

**curve¹** [kɜːv] *n.* **1.** крыва́я (*графіка, дыяграмы*); вы́гін, вы́гіб, паваро́т (*дарогі, ракі і да т.п.*); **a curve in the road** вы́гіб, паваро́т даро́гі; лукаві́на, лука́ **2.** *AmE* = **curve ball**

**curve²** [kɜːv] *v.* **1.** гнуць, выгіна́ць **2.** гну́цца, выгіна́цца; згіна́цца, згіба́цца

**curve ball** [ˈkɜːvbɔːl] *n.* **1.** *AmE, sport* фінт **2.** хі́трасць, хі́трыкі; вы́крут, выкрута́сы

**cushion¹** [ˈkʊʃn] *n.* **1.** паду́шка (*канапная*) **2.** паду́шка (*паветраная*)

**cushion²** [ˈkʊʃn] *v.* **1.** змякча́ць; **cushion a blow/a fall** змякча́ць уда́р/падзе́нне **2.** абараня́ць; **cushion against/from inflation** абараня́ць ад інфля́цыі

**custard** [ˈkʌstəd] *n.* крэм (*сумесь яек і малака, якая ўжываецца з пудынгам або фруктамі*)

**custodian** [kʌˈstəʊdiən] *n.* **1.** захава́льнік; хава́льнік; вартаві́ **2.** *AmE* апяку́н

**custody** [ˈkʌstədi] *n.* **1.** апяку́нства, апе́ка; нагля́д **2.** а́рышт, зняво́ленне (*да суда*); **be in custody** знахо́дзіцца пад ва́ртай; **take into custody** арыштава́ць, пасадзі́ць у ка́меру папярэ́дняга зняво́лення

**custom** [ˈkʌstəm] *n.* **1.** звы́чай **2.** звы́чка, пры- вы́чка **3.** *BrE, fml* кліенту́ра, пакупнікі́ **4.** зака́зы, заку́пкі ў адно́й кра́ме

**customarily** [ˈkʌstəmərəli] *adv.* звыча́йна

**customary** [ˈkʌstəməri] *adj.* звыча́йны, звы́чны, звы́клы, прывы́чны

**customer** [ˈkʌstəmə] *n.* кліе́нт; кліе́нтка; пакупні́к; пакупні́ца; зака́зчык; зака́зчыца; **our cus-**

**tomers** на́ша кліенту́ра ♦ **a queer customer** дзіва́к

**customs** [ˈkʌstəmz] *n. pl.* **1.** мы́тня, тамо́жня; **customs duty/duties** мы́та, мы́тная/тамо́жная по́шліна; **a customs officer** мы́тнік, тамо́жнік; **go through customs and passport control** прайсці́ мы́тны/тамо́жны агля́д і па́шпартны кантро́ль **2.** мы́та, мы́тная/тамо́жная по́шліна

**cut**[1] [kʌt] *n.* **1.** парэ́з, разрэ́з, рэ́заная ра́на **2.** вы́разка **3.** крой (*адзежы*) **4.** зніжэ́нне; скарачэ́нне **5.** шлях нацянькі́/напраcткі́

**cut**[2] [kʌt] *v.* **(cut) 1.** рэ́заць; разраза́ць; зраза́ць **2.** парэ́заць **3.** прарэ́звацца (*пра зубы*); *He is cutting a tooth.* У яго прарэзваецца зуб. **4.** стры́гчы, падстрыга́ць **5.** сячы́ (*лес*) **6.** касі́ць (*траву*); жаць **7.** скарача́ць (*выдаткі*); зніжа́ць, паніжа́ць (*цэны*); **cut the cost of production** зніжа́ць сабеко́шт праду́кцыі **8.** *BrE, infml* прапуска́ць, прагу́льваць (*заняткі*) **9.** здыма́ць (*калоду карт*)

**cut across** [ˌkʌtəˈkrɒs] *phr.v.* **1.** прайсці́ праз што-н.; **cut across the fields** прайсці́ найкарацейшым шля́хам; прайсці́ праз палі́, перасячы́ по́ле **2.** перашкаджа́ць **3.** супярэ́чыць чаму́-н.

**cut down** [ˌkʌtˈdaʊn] *phr.v.* **1.** вы́таргаваць, пераканаць пані́зіць цану́ **2.** высяка́ць, зраза́ць, валі́ць (*лес, дрэвы*) **3. (on)** скарача́ць/змянша́ць ужыва́нне (*чаго-н.*)

**cut off** [ˌkʌtˈɒf] *phr.v.* **1.** адраза́ць; адсяка́ць **2.** перарыва́ць, адключа́ць; *They cut off our water/electricity.* У нас адключылі ваду/электрычнасць.

**cut out** [ˌkʌtˈaʊt] *phr.v.* выраза́ць, вырэ́зваць; **cut out a dress** кро́іць суке́нку; **cut out smoking** кі́даць палі́ць/куры́ць; *Cut it out! infml* Кінь(це)!

**cut and dried** [ˌkʌtən(d)ˈdraɪd] *adj.* канчатко́ва вы́рашаны

**cutback** [ˈkʌtbæk] *n.* **(in smth.)** скарачэ́нне; **stuff cutbacks** скарачэ́нне шта́таў; **cutbacks in public spending** скарачэ́нне сро́дкаў на грама́дскія патрэ́бы

**cute** [kjuːt] *adj.* **1.** *infml* прыго́жы; пана́дны; прыва́бны **2.** *AmE* хі́тры, хітрава́ты

**cutlass** [ˈkʌtləs] *n. hist.* абарда́жная ша́бля

**cutlery** [ˈkʌtləri] *n. BrE* нажавы́я вы́рабы; нажы́, віде́льцы і лы́жкі

**cutlet** [ˈkʌtlət] *n.* **1.** кава́лачак мя́са (*ягняці ці парасяці*) на ко́стачцы **2.** катле́та

**cut-out** [ˈkʌtaʊt] *n.* **1.** *electr.* засцерага́льнік **2.** выразна́я фігу́ра (*з дрэва, паперы і да т.п.*)

**cutter** [ˈkʌtə] *n.* **1.** рэ́зчыцкі інструме́нт/стано́к **2.** рэ́зчык; **a glass cutter** рэ́зчык шкла **3.** *naut.* ка́тар

**cutting** [ˈkʌtɪŋ] *n.* **1.** рэ́занне, разраза́нне; выраза́нне **2.** вы́разка (*з газеты*) **3.** чарано́к (*дрэва*)

**cuttlefish** [ˈkʌtlfɪʃ] *n. zool.* карака́ціца

**CV** [ˌsiːˈviː] *n.* (*скар. ад* **curriculum vitae**) каро́ткая біягра́фія, аўтабіяграфі́чныя да́ныя, жыццяпі́с

**cwt.** *n.* (*пісьмовае скар. ад* **hundredweight**) цэ́нтнер

**cyanide** [ˈsaɪənaɪd] *n. chem.* цыяні́д, соль цыяніставадаро́днай кіслаты́; **cyanide of potassium** цыя́ністы ка́лій

**cybernetic** [ˌsaɪbəˈnetɪk] *adj.* кібернеты́чны

**cybernetics** [ˌsaɪbəˈnetɪks] *n.* кіберне́тыка

**cyborg** [ˈsaɪbɔːg] *n.* кі́барг (*у навукова-фантастычных творах*)

**cyclamen** [ˈsɪkləmən] *n.* (*pl.* **cyclamen** *or* **cyclamens**) *bot.* цыкламе́н

**cycle**[1] [ˈsaɪkl] *n.* **1.** цыкл **2.** *phys.* герц **3.** (*скар. ад* **bicycle**) веласіпе́д, ро́вар; матацы́кл

**cycle**[2] [ˈsaɪkl] *v.* е́здзіць на веласіпе́дзе

**cyclic** [ˈsaɪklɪk] *adj.* цыклі́чны; **the cyclic processes of nature** цыклі́чныя працэ́сы пры́роды

**cyclical** [ˈsaɪklɪkl] *adj.* = **cyclic**

**cyclist** [ˈsaɪklɪst] *n.* веласіпеды́ст

**cyclone** [ˈsaɪkləʊn] *n.* цыкло́н

**cyclonic** [saɪˈkləʊnɪk] *adj.* цыклані́чны

**cygnet** [ˈsɪgnət] *n.* лебедзяня́, лебедзянё

**cylinder** [ˈsɪlɪndə] *n.* цылі́ндр

**cylindrical** [səˈlɪndrɪkl] *adj.* цыліндры́чны

**cymbal** [ˈsɪmbl] *n. mus.* тале́ркі

**cymbalom** [ˈsɪmbələm] *n.* цымба́лы

**cynic** [ˈsɪnɪk] *n.* цы́нік

**cynical** [ˈsɪnɪkl] *adj.* цыні́чны

**cynically** [ˈsɪnɪkəli] *adv.* цыні́чна

**cynicism** [ˈsɪnɪsɪzəm] *n.* цыні́зм

**cypress** [ˈsaɪprəs] *n. bot.* кіпары́с

**Cypriot(e)** [ˈsaɪprɪət] *n.* кіпрыёт; кіпрыётка; **Greek/ Turkish Cypriot(e)s** кіпрыёты грэ́часкага/турэ́цкага пахо́джання

**Cyrillic** [səˈrɪlɪk] *n.* кіры́ліца

**cyrillic** [səˈrɪlɪk] *adj.* кіры́ліцкі; **the Cyrillic alphabet** кіры́ліца

**cyst** [sɪst] *n.* **1.** *med.* кіста́ **2.** *anat.* пузы́р **3.** *bot.* цы́ста

**cystitis** [sɪˈstaɪtɪs] *n. med.* цысты́т

**czar** [zɑː] *n.* = **tsar**

**czarina** [zɑːˈriːnə] *n.* = **tsarina**

**czarist** [ˈzɑːrɪst] *n.* = **tsarist**

**Czech**[1] [tʃek] *n.* **1.** чэх; чэ́шка **2.** чэ́шская мо́ва

**Czech**[2] [tʃek] *adj.* чэ́шскі

# Dd

**D, d** [diː] *n. 4-я літара англійскага алфавіта*
**D**[1] [diː] *n. mus.* нóта «рэ»
**D**[2] [diː] *n.* акадэмíчная адзнáка ≅ «здавальнáюча» (*нізкі прахадны бал*)
**D**[3] [diː] (*скар. ад* **Democrat**; **Democratic**) дэмакрáт; дэмакраты́чны (*пра палітычную партыю ў ЗША*)
**d.** (*пісьмовае скар. ад* **died**) памёр; памéрла
**D.A.** [ˌdiːˈeɪ] *AmE* (*скар. ад* **District Attorney**) акругóвы пракурóр
**dab**[1] [dæb] *n.* **1.** удáр; лёгкі дóтык **2.** мазóк (*фарбы, парфумы і да т.п.*)
**dab**[2] [dæb] *v.* **1. (at)** (лёгка) дакранáцца **2.** дзяўбцí, клявáць (*пра птушак*)
**dabble** [ˈdæbl] *v.* **1.** плю́хацца (*нагамі, рукамі ў вадзе*) **2. (in/with)** забаўля́цца, цéшыцца; займáцца (*чым-н.*) па-амáтарску; *He dabbles in politics.* Ён гуляе ў палітыку.
**dad** [dæd] *n. infml* тáта, тáтка, тáтачка
**daddy** [ˈdædi] *n.* = **dad**
**daddy-long-legs** [ˌdædiˈlɒŋlegz] *n. infml* даўганóжка
**daffodil** [ˈdæfədɪl] *n. bot.* нарцы́с
**daffy** [ˈdæfi] *adj. infml* дурны́
**daft** [dɑːft] *adj. BrE, infml* дурны́, ненармáльны; *Don't be so daft!* Не будзь такім дурнем!; Не рабі глупства! ♦ **as daft as a brush** *BrE, infml* ≅ дурны́ як барáн/як бот/як пень
**dagger** [ˈdægə] *n.* кінжáл ♦ **at daggers drawn** *BrE* на нажáх; *They are at daggers drawn.* Яны на нажах; **look daggers at smb.** ≅ глядзéць на кагó-н. вóўкам
**dahlia** [ˈdeɪliə, ˈdæliə] *n. bot.* вяргíня
**daily**[1] [ˈdeɪli] *n.* штодзённая газéта
**daily**[2] [ˈdeɪli] *adj.* штодзённы; **a daily paper** штодзённая газéта ♦ **one's daily bread** хлеб надзённы
**daily**[3] [ˈdeɪli] *adv.* штодзéнь, штодзённа, штодня́
**dainty** [ˈdeɪnti] *adj.* **1.** вы́танчаны; тóнкі, далікáтны **2.** грацыёзны
**dairy** [ˈdeəri] *n.* **1.** малóчная фéрма **2.** малачáрня (*на ферме*) **3.** малóчны магазíн; **dairy products/produce** малóчныя прадýкты
**dairymaid** [ˈdeərimeɪd] *n. dated* даярка
**dairyman** [ˈdeərimən] *n.* (*pl.* **-men**) **1.** малóчнік (*мужчына, які прадае малако і малочныя прадукты*) **2.** дая́р
**dais** [ˈdeɪɪs] *n.* памóст; трыбýна
**daisy** [ˈdeɪzi] *n. bot.* стакрóтка, маргары́тка
**Dalai Lama** [ˌdælaɪˈlɑːmə] *n.* **the Dalai Lama** далáй-лáма
**dale** [deɪl] *n. lit.* далíна, лог
**Dalmatian** [dælˈmeɪʃn] *n. zool.* далмацíнец (*пароды сабак*)
**dam**[1] [dæm] *n.* запрýда; плацíна; дáмба
**dam**[2] [dæm] *v. таксама* **dam up 1.** гацíць, запрýджваць **2.** стры́мліваць; **dam up one's feelings** стры́мліваць пачýцці
**damage**[1] [ˈdæmɪdʒ] *n.* **1.** пашкóджанне, шкóда; стрáта; **do damage to smth.** нанóсіць шкóду чамý-н. **2.** *pl.* **damages** *law* пакрыццё страт; кампенсáцыя ♦ **what's the damage?** *infml* кóлькі я вам вíнен?
**damage**[2] [ˈdæmɪdʒ] *v.* шкóдзіць, псавáць; рабíць/прынóсіць стрáты
**damaging** [ˈdæmɪdʒɪŋ] *adj.* **(to)** шкóдны, якí прынóсіць шкóду; **damaging consequences** шкóдныя настýпствы
**Damascus** [dəˈmæskəs] *n.* **:** ♦ **the road to Damascus** вóпыт, якí карэ́нным чы́нам мяня́е пóгляды чалавéка
**Dame** [deɪm] *n. BrE* дáма (*тытул*)
**dammit** [ˈdæmɪt] *interj. infml* чорт вазьмí!
**damn**[1] [dæm] *n. infml* праклён ♦ **not care a damn** *infml* напляваць; *I don't* ***give a damn.*** Мне начхаць; **damn all** *infml* (а)нічóга; *He left me damn all.* Ён мне анічога не пакінуў.
**damn**[2] [dæm] *adj. infml* праклáты, чóртаў (*ужываецца як узмацняльнае слова*); *My damn car has broken down again!* Мая праклятая машына зноў зламалася!
**damn**[3] [dæm] *v.* **1.** клясцí, праклінáць **2.** асуджáць; *The critics damned the play.* Крытыкі забракавалі п'есу. ♦ **I'm damned if...** *infml* (*ужываецца як лаянка*) **:** *I'm damned if I know!* Чорт яго ведае!; *Well, I'm damned!* Што за ліха!
**damn**[4] [dæm] *interj. infml* чорт (*ужываецца як лаянка*); *Damn! I've lost my pencil.* От чорт! Я згубіў аловак; *Damn him!* Чорт/халера з ім!; *Damn you!* Бадай цябе ліха ўзяло! ♦ **damn it!** чорт вазьмí!; **damn your eyes!** соль табé ў вóчы!; трáсца табé ў бок!
**damnation** [dæmˈneɪʃn] *n.* **1.** праклён, праклáцце **2.** асуджэ́нне (*на пакуты*)
**damned**[1] [dæmd] *n.* **the damned** *pl. eccl.* асýджаныя на вéчныя пакýты; дýшы ў пéкле
**damned**[2] [dæmd] *adj., adv. infml* **:** *He had damned bad luck.* Яму страшэнна не пашанцавала.
**Damocles** [ˈdæməkliːz] *n.* **: a/the sword of Damocles** дамóклаў меч
**damp**[1] [dæmp] *adj.* сыры́, вільгóтны
**damp**[2] [dæmp] *v.* увільгатня́ць; *The dew damped the path.* Сцежка была сырой ад расы.

**desperation** [ˌdespəˈreɪʃn] *n.* адча́й; *He drives me to desperation.* Ён даводзіць мяне да адчаю.

**despicable** [dɪˈspɪkəbl] *adj. fml* агі́дны; **a despicable crime** агі́днае злачы́нства

**despise** [dɪˈspaɪz] *v.* пагарджа́ць

**despite** [dɪˈspaɪt] *prep.* нягле́дзячы на, не звaжа́ючы на; **despite our efforts** нягле́дзячы на на́шы вы́сілкі

**despondency** [dɪˈspɒndənsi] *n.* марко́та; туга́; сум

**despondent** [dɪˈspɒndənt] *adj.* **(about, over)** марко́тны; тужлі́вы; су́мны; **feel despondent about smb.** сумава́ць па кім-н.

**despot** [ˈdespɒt] *n.* дэ́спат, тыра́н

**despotic** [dɪˈspɒtɪk] *adj.* дэспаты́чны; **despotic power** дэспаты́чная ўла́да

**dessert** [dɪˈzɜːt] *n.* дэсе́рт, сало́дкае; **a dessert spoon** дэсе́ртная лы́жка; **for dessert** на дэсе́рт

**destination** [ˌdestɪˈneɪʃn] *n.* ме́сца прызначэ́ння; мэ́та (*падарожжа*)

**destined** [ˈdestɪnd] *adj. fml* прызна́чаны; су́джаны; наканава́ны; *He was destined for science.* Яму было прызначана стаць навукоўцам.

**destiny** [ˈdestəni] *n.* лёс, до́ля; *Every man has but one destiny.* У кожнага свой лёс.

**destitute** [ˈdestɪtjuːt] *adj., n.* які́ жыве́ ў нястá́чы; **the destitute** беднякі́

**destroy** [dɪˈstrɔɪ] *v.* **1.** разбура́ць, буры́ць; знішча́ць, руйнава́ць **2.** забіва́ць (*жывёл*); *The horse broke its leg and had to be destroyed.* Конь зламаў нагу, і яго давялося забіць.

**destroyer** [dɪˈstrɔɪə] *n. mil.* эсмі́нец

**destruction** [dɪˈstrʌkʃn] *n.* разбурэ́нне, знішчэ́нне; **bring smb. to destruction** даве́сці каго́-н. да кра́ху

**destructive** [dɪˈstrʌktɪv] *adj.* разбура́льны; **a destructive example** ве́льмі дрэ́нны пры́клад; **destructive power** *mil.* разбура́льная сі́ла

**detach** [dɪˈtætʃ] *v.* аддзяля́ць; раз'ядно́ўваць; **detach oneself from reality** адысці́ ад рэчаі́снасці

**detached** [dɪˈtætʃt] *adj.* **1.** непрадузя́ты; незале́жны **2.** абыя́кавы; **a detached attitude** абыя́кавае ста́ўленне

**detached house** [dɪˈtætʃtˌhaʊs] *n.* асабня́к, дом для адно́й сям'і

**detachment** [dɪˈtætʃmənt] *n.* **1.** аддзяле́нне, раз'ядна́нне **2.** раўнаду́шша; абыя́кавасць **3.** *mil.* атра́д

**detail** [ˈdiːteɪl] *n.* падрабя́знасць, дэта́ль ♦ **in detail** падрабя́зна, дэталёва; **go into detail(s)** паглыбля́цца ў падрабя́знасці; разгляда́ць падрабя́зна

**detailed** [ˈdiːteɪld] *adj.* падрабя́зны, дэталёвы

**detain** [dɪˈteɪn] *v.* **1.** трыма́ць пад ва́ртай **2.** *fml* затры́мліваць; *She was detained at work.* Яе затрымалі на працы.

**detect** [dɪˈtekt] *v.* **1.** высо́чваць **2.** выяўля́ць, знахо́дзіць

**detective** [dɪˈtektɪv] *n.* сы́шчык, дэтэкты́ў; **a detective story/novel** дэтэкты́ў, дэтэкты́ўны рама́н

**detente** [ˌdeɪˈtɑːnt] *n. fml* дэта́нт, разра́дка; **political detente** паліты́чная разра́дка

**detention** [dɪˈtenʃn] *n.* **1.** зняво́ленне, а́рышт; **detention pending trial** папярэ́дняе зняво́ленне; **a detention camp** ла́гер для інтэрні́раваных **2.** затрыма́нне; **give (a) detention** пакіда́ць пасля́ ўро́каў

**deter** [dɪˈtɜː] *v.* **(from)** утры́мліваць, стры́мліваць

**detergent** [dɪˈtɜːdʒənt] *n.* дэтэргéнт, мы́йны сро́дак (*пральны парашок і да т.п.*)

**deteriorate** [dɪˈtɪəriəreɪt] *v.* пагарша́ць; пагарша́цца; псава́ць; псава́цца

**deterioration** [dɪˌtɪəriəˈreɪʃn] *n.* **1.** пагаршэ́нне; **deterioration in morals** падзе́нне но́раваў **2.** *ling.* дэтэрыяра́цыя, пагаршэ́нне (*значэння слова*)

**determination** [dɪˌtɜːmɪˈneɪʃn] *n.* **1.** рашу́часць **2.** *fml* вызначэ́нне; рашэ́нне

**determine** [dɪˈtɜːmɪn] *v. fml* **1.** вызнача́ць **2.** вырaша́ць; **determine smb.'s fate** вырaша́ць чый-н. лёс

**determined** [dɪˈtɜːmɪnd] *adj.* рашу́чы, катэгары́чны; **determined character** цвёрды хара́ктар

**determiner** [dɪˈtɜːmɪnə] *n. ling.* дэтэрміна́нт

**determinism** [dɪˈtɜːmɪnɪzəm] *n. philos.* дэтэрмі́нізм

**deterministic** [dɪˌtɜːmɪˈnɪstɪk] *adj.* дэтэрміністы́чны

**deterrent** [dɪˈterənt] *n.* сі́лы стры́млівання; **a nuclear deterrent** я́дзерны арсена́л стры́млівання

**detest** [dɪˈtest] *v.* ненаві́дзець; *I detest being interrupted.* Трываць не магу, калі мяне перабіваюць.

**detestable** [dɪˈtestəbl] *adj.* агі́дны; мярзо́тны

**dethrone** [ˌdiːˈθrəʊn] *v.* зверга́ць з прасто́ла/тро́на

**detonate** [ˈdetəneɪt] *v.* узрыва́ць; узрыва́цца

**detonation** [ˌdetəˈneɪʃn] *n.* дэтана́цыя

**detonator** [ˈdetəneɪtə] *n.* дэтана́тар

**detour** [ˈdiːtʊə] *n.* аб'е́зд, кружны́ шлях; **make a detour** рабі́ць аб'е́зд

**detract** [dɪˈtrækt] *v.* **(from) 1.** прыніжа́ць (*значэнне, ролю*) **2.** зніжа́ць (*якасць, вартасць і да т.п.*)

**detriment** [ˈdetrɪmənt] *n. fml* шко́да ♦ **to the detriment of smb./smth.** на шко́ду каму́-н./чаму́-н.
**detrimental** [ˌdetrɪˈmentl] *adj.* шко́дны; **detrimental to one's health** шко́дны для здаро́ўя
**deuce** [dju:s] *n.* ро́ўны лік (*у тэнісе*)
**devaluation** [ˌdi:ˌvæljuˈeɪʃn] *n. finance* дэвальва́цыя, абясцэ́ненне, абясцэ́ньванне
**devalue** [ˌdi:ˈvælju:] *v. finance* дэвальвава́ць, абясцэ́ньваць
**devastate** [ˈdevəsteɪt] *v.* спусто́шваць, спусташа́ць; разбура́ць
**devastating** [ˈdevəsteɪtɪŋ] *adj.* спусташа́льны; разбура́льны; **devastating criticism** знішча́льная кры́тыка; *He is a devastating bore.* Ён невыносны зануда.
**devastation** [ˌdevəˈsteɪʃn] *n.* спусташэ́нне, разбурэ́нне
**develop** [dɪˈveləp] *v.* **1.** развіва́ць; развіва́цца; разго́ртваць; разго́ртвацца **2.** распрацо́ўваць; *The company develops new software.* Кампанія распрацоўвае новае праграмнае забеспячэнне. **3.** праяўля́ць; праяўля́цца (*у фатаграфіі*)
**developed** [dɪˈveləpt] *adj.* (эканамі́чна) развіты́ (*пра рэгіён, краіну*)
**developer** [dɪˈveləpə] *n.* **1.** забудо́ўшчык **2.** распрацо́ўшчык **3.** *tech.* праяві́цель, праяўля́льнае рэ́чыва
**developing** [dɪˈveləpɪŋ] *adj.* які́ развіва́ецца; у ста́дыі развіцця́; які́ стаў на шлях развіцця́; **developing countries/nations** краі́ны, якія ста́лі на шлях развіцця́
**development** [dɪˈveləpmənt] *n.* **1.** развіццё, разго́ртванне **2.** (няда́ўняя) падзе́я; *What are the latest developments?* Якія апошнія навіны?
**deviate** [ˈdi:vieɪt] *v.* **(from)** адхіля́цца; ухіля́цца; **deviate from the route** адхіля́цца ад маршру́ту
**device** [dɪˈvaɪs] *n.* **1.** план, схе́ма, заду́ма; *He was left to his own devices.* Яму дазволілі дзейнічаць самастойна. **2.** прыстасава́нне, прыла́да
**devil** [ˈdevl] *n.* чорт, д'я́бал ♦ **poor devil!** *infml* небара́ка!; нябо́га!; **between the devil and the deep blue sea** ≅ памі́ж двух агнёў; **the devil take it!** *infml* каб яго́ чорт узя́ў!; **go to the devil!** *infml* ідзі́ к чо́рту!; **speak/talk of the devil** *infml* лёгкі на ўспамі́н; *He has **the devil's own luck**.* Яму шалёна шанцуе; *I had **the devil of a time**.* Я вельмі добра бавіў час; *There'll be **the devil to pay**.* Разлічыцца за гэта будзе нялёгка; ***What the devil** do you mean*? *infml* Якога д'ябла!
**devilish** [ˈdevəlɪʃ] *adj.* д'я́бальскі; страшэ́нны
**devil-may-care** [ˌdevlmeɪˈkeə] *adj.* заліхва́цкі, зухава́ты
**devious** [ˈdi:viəs] *adj.* хі́тры, няшчы́ры; *He got rich by devious means.* Ён разбагацеў абыходным шляхам.
**devise** [dɪˈvaɪz] *v.* прыду́мваць; вынахо́дзіць
**devoid** [dɪˈvɔɪd] *adj. fml* **(of)** пазба́ўлены; **devoid of shame** бессаро́мны; **devoid of fear** бясстра́шны
**devolution** [ˌdi:vəˈlu:ʃn] *n.* дэлегава́нне ўла́ды
**devolve** [dɪˈvɒlv] *v. fml* **(on/upon smb.)** перадава́ць (*паўнамоцтвы, уладу і да т.п.*)
**devote** [dɪˈvəʊt] *v.* прысвяча́ць; **devote oneself to smth.** ца́лкам прысвяці́ць сябе́ чаму́-н.; уляга́ць у што-н.
**devoted** [dɪˈvəʊtɪd] *adj.* адда́ны; *She is devoted to her children.* Яна цалкам аддае сябе дзецям.
**devotee** [ˌdevəˈti:] *n.* **(of)** прыхі́льнік; прыхі́льніца
**devotion** [dɪˈvəʊʃn] *n.* **1.** адда́насць **2.** *pl.* **devotions** малі́твы, па́церы; *He was at his devotions.* Ён маліўся.
**devour** [dɪˈvaʊə] *v.* **1.** жэ́рці, пра́гна е́сці **2.** праглына́ць, паглына́ць (*перан.*); *He devoured the novel.* Ён праглынуў раман. **3.** зніشча́ць; *The fire devoured the forest.* Агонь знішчыў лес.
**devout** [dɪˈvaʊt] *adj.* набо́жны; **a devout Christian** адда́ны хрысція́нін; **a devout follower** адда́ны паслядо́ўнік
**dew** [dju:] *n.* раса́; кро́пля (*расы, поту*); **wet with dew** мо́кры ад расы́, абро́шаны; *The grass was wet with early morning dew.* Трава была мокрая ад ранішняй расы.
**dewdrop** [ˈdju:drɒp] *n.* расі́нка
**dexterity** [dekˈsterəti] *n.* спрыт, спры́тнасць; уві́шнасць
**dext(e)rous** [ˈdekstrəs] *adj. fml* спры́тны, ло́ўкі; уві́шны
**diabetes** [ˌdaɪəˈbi:ti:z] *n. med.* дыябе́т
**diabetic[1]** [ˌdaɪəˈbetɪk] *n.* дыябе́тык
**diabetic[2]** [ˌdaɪəˈbetɪk] *adj.* дыябеты́чны; **a diabetic diet** дые́та дыябе́тыка
**diabolical** [ˌdaɪəˈbɒlɪkl] *adj. infml* д'я́бальскі; страшэ́нны; **diabolical traffic** страшэ́нны рух
**diacritic** [ˌdaɪəˈkrɪtɪk] *n. ling.* дыякрыты́чны знак
**diagnose** [ˈdaɪəgnəʊz] *v.* **1.** *med.* дыягнастава́ць, ста́віць дыя́гназ **2.** выяўля́ць няспра́ўнасці, памы́лкі, пашко́джанні
**diagnoses** [ˌdaɪəgˈnəʊsi:z] *pl.* → **diagnosis**
**diagnosis** [ˌdaɪəgˈnəʊsɪs] *n.* (*pl.* **-ses**) дыя́гназ; **make a diagnosis** ста́віць дыя́гназ
**diagonal[1]** [daɪˈægənl] *n.* дыягана́ль
**diagonal[2]** [daɪˈægənl] *adj.* дыягана́льны

**diagram** [ˈdaɪəɡræm] *n.* дыягра́ма, схе́ма
**dial**[1] [ˈdaɪəl] *n.* **1.** цыферблáт (*гадзінніка*) **2.** шкалá (*розных прыбораў*) **3.** дыск (*тэлефона*) **4.** *infml, derog.* мóрда, мурлó
**dial**[2] [ˈdaɪəl] *v.* набірáць нýмар (*тэлефона*); **dial the police station** тэлефанавáць у палі́цыю
**dialect** [ˈdaɪəlekt] *n. ling.* дыялéкт; гавóрка
**dialectal** [ˌdaɪəˈlektl] *adj. ling.* дыялéктны
**dialectic(s)** [ˌdaɪəˈlektɪks] *n. philos.* дыялéктыка
**dialectology** [ˌdaɪəlekˈtɒlədʒi] *n. ling.* дыялекталóгія
**dialling tone** [ˈdaɪəlɪŋˌtəʊn] *BrE* сігнáл «лі́нія свабóдная»
**dialog** [ˈdaɪəlɒɡ] *AmE* = **dialogue**
**dialogue** [ˈdaɪəlɒɡ] *n.* дыялóг; размóва
**diameter** [daɪˈæmɪtə] *n.* дыя́метр; **in diameter** у дыя́метры
**diamond** [ˈdaɪəmənd] *n.* **1.** алмáз, дыямéнт; **a diamond mine** алмáзная капáльня; **a diamond ring** брылья́нтавы пярсцёнак; **a diamond wedding** *BrE* брылья́нтавае вясéлле **2.** *pl.* **diamonds** звóнкі (*у картах*)
**diaper** [ˈdaɪəpə] *n. AmE* пялёнка, пялю́шка
**diarrhea** [ˌdaɪəˈrɪə] *AmE* = **diarrhoea**
**diarrhoea** [ˌdaɪəˈrɪə] *n. med.* дыярэ́я, панóс
**diary** [ˈdaɪəri] *n.* **1.** дзённік; **keep a diary** вéсці дзённік **2.** каляндáр, штодзённік
**diaspora** [daɪˈæspərə] *n. fml* дыяспара
**diatonic** [ˌdaɪəˈtɒnɪk] *adj. mus.* дыятані́чны
**dice**[1] [daɪs] *n.* (*pl.* **dice**) косць (*для гульні*); **play dice** гуля́ць у кóсці ♦ ***The dice are loaded against him***. Лёс супраць яго.
**dice**[2] [daɪs] *v.* **1.** рэ́заць на малыя кýбікі (*мяса, гародніну*) **2.** гуля́ць у кóсці ♦ **dice with death** *infml* рызыкавáць жыццём
**dicey** [ˈdaɪsi] *adj. BrE, infml* ненадзéйны; рызыкóўны
**dichotomy** [daɪˈkɒtəmi] *n. fml* дыхатамі́я
**dictate** [dɪkˈteɪt] *v.* дыктавáць (*у розных знач.*)
**dictation** [dɪkˈteɪʃn] *n.* **1.** дыктáнт, дыктóўка; **take dictation** пісáць пад дыктóўку **2.** загáд, прадпісáнне; *I did it at his dictation.* Я гэта зрабіў па яго загадзе.
**dictator** [dɪkˈteɪtə] *n.* дыктáтар
**dictatorial** [ˌdɪktəˈtɔːriəl] *adj.* дыктáтарскі; **a dictatorial regime** дыктáтарскі рэжы́м
**dictatorship** [ˌdɪkˈteɪtəʃɪp] *n.* дыктатýра
**diction** [ˈdɪkʃn] *n.* ды́кцыя; вы́бар слоў; **poetic diction** мóва паэ́зіі
**dictionary** [ˈdɪkʃənri] *n.* слóўнік; **a Belarusian-English dictionary** беларýска-англі́йскі слóўнік
**did** [dɪd] *past* → **do**
**didn't** [ˈdɪdnt] *скар. ад* **did not**
**die**[1] [daɪ] *n.* **1.** штамп **2.** косць (*для гульні*) ♦ **the die is cast** вы́бар зрóблены; рашэ́нне прыня́та
**die**[2] [daɪ] *v.* **1.** памірáць; канáць; гі́нуць; здыхáць (*пра жывёлу*); **die a natural death** пaмéрці сваёй смéрцю; *He died in an accident.* Ён загінуў у аварыі; *He died of/from cancer.* Ён памёр ад раку. **2.** *infml* вéльмі хацéць; *I'm dying to see him.* Я страшэнна хачу яго бачыць; *We nearly died of laughing.* Мы ледзь не памерлі са смеху.
**die away** [ˌdaɪəˈweɪ] *phr.v.* замірáць, заціхáць (*пра гукі, буру*); заглухáць (*пра пачуцці*)
**die down** [ˌdaɪˈdaʊn] *phr.v.* гáснуць, загасáць (*пра агонь*); уціхáць, сціхáць (*пра шум*)
**die out** [ˌdaɪˈaʊt] *phr.v.* **1.** вымірáць **2.** адмірáць (*пра ідэі, сацыяльныя з'явы і да т.п.*)
**diesel** [ˈdiːzl] *n.* **1.** *таксама* **a diesel engine** ды́зель **2.** *таксама* **diesel fuel/oil** ды́зельнае пáліва
**diet**[1] [ˈdaɪət] *n.* **1.** ядá, стол **2.** дыéта; *She is on a diet.* Яна на дыеце; **go on a diet** сéсці на дыéту; **keep to a diet** трымáцца дыéты
**diet**[2] [ˈdaɪət] *v.* быць на дыéце; трымáцца дыéты
**differ** [ˈdɪfə] *v.* **1.** адрóзнівацца, рóзніцца; *We differ in our tastes.* У нас розныя густы. **2.** разыхóдзіцца ў пóглядах, мець рóзныя дýмкі; *I beg to differ. fml* Я дазволю сабе не згадзіцца; *We agreed to differ.* Мы вырашылі спыніць непатрэбную спрэчку.
**difference** [ˈdɪfrəns] *n.* **1.** адрóзненне, рóзніца; *There are many differences between the two languages.* Паміж гэтымі дзвюма мовамі існуе шмат разыходжанняў; *That makes all the difference.* У гэтым уся розніца; *What difference does it make?* Якая розніца?; *It makes no difference to me.* Мне гэта ўсё адно/роўна. **2.** рознагалóссе; свáрка; **a difference of opinion** спрэ́чка; рóзныя пýнкты глéджання
**different** [ˈdɪfrənt] *adj.* **1.** рóзны, і́ншы; **of different kinds** рóзнага рóду; **different from** непадóбны да; *That is quite* (*a*) *different* (*matter*). Гэта зусім іншая справа; *She wears a different hat every day.* Яна кожны дзень надзявае новы капялюш; *He became a different person.* Ён стаў зусім іншым чалавекам; *Everyone gave him a different answer.* Усе адказалі яму па-рознаму. **2.** разнастáйны ♦ **a different kettle of fish** *infml* ≅ зусíм і́ншая спрáва/размóва
**differential**[1] [ˌdɪfəˈrenʃl] *n.* **1.** дыферэнцы́раваная аплáта прáцы **2.** *math.* дыферэнцыя́л
**differential**[2] [ˌdɪfəˈrenʃl] *adj.* **1.** дыферэнцы́раваны **2.** *math.* дыферэнцыя́льны

**differentiate** [ˌdɪfəˈrenʃieɪt] *v.* **(among/between)** адро́зніваць, распазнава́ць, дыферэнцы́раваць
**differently** [ˈdɪfrəntli] *adv.* па-і́ншаму; іна́чай, іна́кш
**difficult** [ˈdɪfɪkəlt] *adj.* ця́жкі; **a difficult child** цяжкавыхо́ўнае дзіця́; *He is difficult to please.* Яму цяжка дагадзіць.
**difficulty** [ˈdɪfɪkəlti] *n.* ця́жкасць; *Don't make difficulties.* Не стварайце цяжкасцей; *We ran into difficulties.* Мы сутыкнуліся з цяжкасцямі; *He is in financial difficulties.* Ён мае матэрыяльныя цяжкасці.
**diffidence** [ˈdɪfɪdəns] *n.* сарамлі́васць, нясме́ласць; **overcome diffidence** пераадо́лець нясме́ласць
**diffident** [ˈdɪfɪdənt] *adj.* **(about)** сарамлі́вы, нясме́лы; *He is diffident about his success.* Пра свой поспех ён гаворыць вельмі стрымана.
**diffuse[1]** [dɪˈfjuːs] *adj.* **1.** рассе́яны (*пра святло*) **2.** расплы́ўчаты, расплы́вісты (*пра адказ, прамову і да т.п.*)
**diffuse[2]** [dɪˈfjuːz] *v.* **1.** рассе́йваць; рассе́йвацца (*пра святло, энергію і да т.п.*) **2.** распаўсю́джваць; распаўсю́джвацца (*пра веды, вучэнне і да т.п.*)
**dig** [dɪg] **(dug)** *v.* **1.** капа́ць, рыць; *They dug a hole.* Яны выкапалі яму; **dig potatoes** капа́ць бу́льбу; **dig for gold** шука́ць зо́лата **2.** адко́пваць, вышу́кваць (*перан.*); *You will have to dig for the information.* Вам трэба будзе пакапацца, каб знайсці патрэбную інфармацыю. **3.** шту́рхаць; *He dug me in the ribs.* Ён штурхнуў мяне ў бок; *He dug his fork into the pie.* Ён уваткнуў відэлец у пірог.
**dig out** [ˌdɪgˈaʊt] *phr.v.* выко́пваць, раско́пваць (*таксама перан.*); *It is hard to dig out the truth.* Цяжка дакапацца да ісціны.
**dig up** [ˌdɪgˈʌp] *phr.v.* адко́пваць, ускo̍пваць, раско́пваць; *They dug up the land.* Яны ўскапалі зямлю; *Father dug up an old coin in the garden.* Бацька выкапаў старую манету ў садзе.
**digest[1]** [ˈdaɪdʒest] *n.* да́йджэст; рэзюмэ́; кампе́ндыум
**digest[2]** [daɪˈdʒest] *v.* **1.** ператраўля́ць; ператраўля́цца **2.** засво́йваць (*інфармацыю, матэрыял і да т.п.*)
**digestion** [daɪˈdʒestʃən] *n.* страўва́нне; **easy of digestion** лёгка засвая́льны
**digger** [ˈdɪgə] *n.* экскава́тар
**digit** [ˈdɪdʒɪt] *n.* **1.** *math., comput.* любая лі́чба ад 0 да 9 **2.** *anat.* па́лец
**digital** [ˈdɪdʒɪtl] *adj.* лі́чбавы; **a digital computer** лі́чбавы камп'ю́тар
**dignified** [ˈdɪgnɪfaɪd] *adj.* з пачуццём ула́снай го́днасці (*пра чалавека*); ве́лічны, ва́жны (*пра падзею*)
**dignity** [ˈdɪgnəti] *n.* го́днасць, высакаро́днасць
**digraph** [ˈdaɪgrɑːf] *n. ling.* дыгра́ф
**digress** [daɪˈgres] *v. fml* **(from)** адхіля́цца (*ад тэмы, шляху*)
**digression** [daɪˈgreʃn] *n. fml* адхіле́нне
**dike** [daɪk] *n.* **1.** роў, кана́ва **2.** да́мба, плаці́на
**dilate** [dɪˈleɪt] *v.* расшыра́ць; расшыра́цца (*пра вочы, зрэнкі, сасуды*); павялі́чваць; павялі́чвацца
**dilemma** [dɪˈlemə] *n.* дыле́ма
**dilettante** [ˌdɪləˈtænti] *n.* (*pl.* **dilettanti** *or* **dilettantes**) дылета́нт; дылета́нтка
**diligence** [ˈdɪlɪdʒəns] *n. fml* стара́ннасць, руплі́васць, дбайнасць
**diligent** [ˈdɪlɪdʒənt] *adj. fml* стара́нны, руплі́вы, дба́йны
**dill** [dɪl] *n.* кроп; **dill water** кро́павая вада́; **dill pickles** марынава́ныя агуркі́
**dilute** [daɪˈluːt] *v.* разбаўля́ць, разво́дзіць
**dilution** [daɪˈluːʃn] *n.* разбаўле́нне (*вадой*)
**dim[1]** [dɪm] *adj.* **1.** цьмя́ны, невыра́зны, няя́сны; **a dim memory** няя́сны ўспамі́н **2.** *BrE, infml* тупы́ (*пра чалавека*) ♦ **take a dim view of smth.** *infml* ста́віцца да чаго́-н. адмо́ўна
**dim[2]** [dɪm] *v.* **1.** затума́ньваць; затума́ньвацца; губля́ць я́ркасць, цьмяне́ць **2.** прытупля́ць; прытупля́цца (*пра пачуцці*)
**dimension** [daɪˈmenʃn] *n.* **1.** паме́р, разме́р **2.** *phys.* вымярэ́нне
**diminish** [dɪˈmɪnɪʃ] *v.* памянша́ць; памянша́цца; змянша́ць; змянша́цца
**diminished responsibility** [dɪˌmɪnɪʃtrəspɒnsəˈbɪləti] *n. law* абмежава́ная адка́знасць
**diminutive** [dɪˈmɪnjətɪv] *adj.* **1.** *ling.* змянша́льны, памянша́льны **2.** *fml* мініяцю́рны
**dimple** [ˈdɪmpl] *n.* я́мачка (*на шчацэ, барадзе*)
**din** [dɪn] *n.* шум; го́ман
**dine** [daɪn] *v. fml* абе́даць, частава́ць абе́дам; вячэ́раць; *He was wined and dined.* Яго кармілі-паілі.
**dine out** [ˌdaɪnˈaʊt] *phr.v.* абе́даць не до́ма (*у рэстаране, у гасцях*)
**dinghy** [ˈdɪŋ(g)i] *n.* я́лік
**dingy** [ˈdɪndʒi] *adj.* цёмны, змро́чны; бру́дны; **a dingy little room** цёмны/бру́дны пако́йчык
**dining car** [ˈdaɪnɪŋˌkɑː] *n.* ваго́н-рэстара́н
**dining room** [ˈdaɪnɪŋˌruːm] *n.* стало́вы пако́й (*у доме*); рэстара́н (*у гасцініцы*)
**dining table** [ˈdaɪnɪŋˌteɪbl] *n.* абе́дзенны стол
**dinner** [ˈdɪnə] *n.* абе́д, вячэ́ра; **a formal dinner** банке́т; **have dinner** абе́даць; вячэ́раць

**dinner jacket** [ˈdɪnəˌdʒækɪt] *n. BrE* смóкінг
**dinner party** [ˈdɪnəˌpɑːti] *n.* звáны абéд
**dinner service** [ˈdɪnəˌsɜːvɪs] *n.* абéдзенны сервíз
**dinner time** [ˈdɪnəˌtaɪm] *n.* абéдзенны час
**dinosaur** [ˈdaɪnəsɔː] *n.* дыназáўр
**diocese** [ˈdaɪəsɪs] *n.* (*pl.* **dioceses** [ˈdaɪəsiːz]) *eccl.* епáрхія
**dioxide** [daɪˈɒksaɪd] *n. chem.* дыяксíд
**dip**[1] [dɪp] *n.* **1.** апускáнне (*у вадкасць*) **2.** купáнне; **go for a dip** *infml* ісцí купáцца; **have/take a dip** купáцца; абмывáцца **3.** спуск, пакáт, нізíна
**dip**[2] [dɪp] *v.* **1.** апускáцца (*у вадкасць*); акунáць, мачы́ць; **dip one's pen in ink** абмáкваць пярó ў чарнíла **2.** апускáцца, акунáцца; *The sun dipped below the horizon.* Сонца схавалася за гарызонтам. **3. : dip into a book** заглядваць у кнíгу ♦ **dip into one's purse/pocket** *infml* транжы́рыць грóшы; раскашэ́львацца
**diphtheria** [dɪfˈθɪəriə] *n. med.* дыфтэры́я
**diphthong** [ˈdɪfθɒŋ] *n. ling.* дыфтóнг
**diploma** [dɪˈpləʊmə] *n.* **1.** дыплóм **2.** *BrE* курс навучáння ў калéджы абó ўніверсітэ́це; **take a diploma in** прахóдзіць курс навучáння па (*прадмеце*)
**diplomacy** [dɪˈpləʊməsi] *n.* **1.** дыпламáтыя **2.** дыпламаты́чнасць
**diplomat** [ˈdɪpləmæt] *n.* дыпламáт
**diplomatic** [ˌdɪpləˈmætɪk] *adj.* дыпламаты́чны (*таксама перан.*); **diplomatic corps** дыпламаты́чны кóрпус
**dire** [ˈdaɪə] *adj. fml* жахлíвы, жýдасны, страшэ́нны; **be in dire need of help** мець/адчувáць крáйнюю патрэ́бу ў дапамóзе
**direct**[1] [dəˈrekt] *adj.* **1.** прамы́, непасрэ́дны; **a direct answer** прамы́ адкáз; **a direct influence** непасрэ́дны ўплы́ў; **a direct flight** бесперасáдачны рэйс **2.** *electr.* пастая́нны (*пра ток*) **3.** *ling.* **: the direct object** прамóе дапаўнéнне; **direct speech** прóстая мóва
**direct**[2] [dəˈrekt] *v.* **1.** кіравáць; **direct an orchestra** дырыжы́раваць аркéстрам; **direct a play** стáвіць п'éсу; *The policeman was directing the traffic.* Паліцэйскі рэгуляваў рух. **2.** пакáзваць дарóгу; *Can you direct me to the station?* Ці не пакажаце мне дарогу на станцыю?/Ці не скажаце мне, як дайсці да вакзала? **3. (to, at)** адрасавáць, накірóўваць (*ліст, заўвагі і да т.п.*)
**direct**[3] [dəˈrekt] *adv.* **1.** прáма; *I'm going there direct.* Я іду прама туды. **2.** непасрэ́дна
**direction** [dəˈrekʃn] *n.* **1.** кірýнак, напрáмак**; in the direction of** у кірýнку да; **from all directions** з усíх бакóў; *He has a good sense of direction.* Ён добра арыентуецца. **2.** *pl.* **directions** указáнні **3.** кіраўнíцтва; **the direction of a play** пастанóўка п'éсы
**directly**[1] [dəˈrektli] *adv.* **1.** прáма **2.** неўзабáве, у хýткім чáсе, зáраз
**directly**[2] [dəˈrektli] *conj. BrE* як тóлькі; *I went home directly I had finished work.* Я пайшоў дамоў, як толькі скончыў працу.
**director** [dəˈrektə] *n.* **1.** дырэ́ктар, кіраўнíк **2.** рэжысёр
**directory** [dəˈrektəri] *n.* давéднік; паказáльнік; **a telephone directory** тэлефóнны давéднік
**dirge** [dɜːdʒ] *n.* пахавáльны спеў, галашэ́нне
**dirt** [dɜːt] *n.* **1.** бруд, гразь **2.** грунт, зямля́ ♦ **dirt cheap** вéльмі тáнны; **treat smb. like dirt** *infml* трэцíраваць кагó-н.
**dirty** [ˈdɜːti] *adj.* **1.** брýдны; грáзкі **2.** непрыстóйны, пахáбны **3.** пóдлы, бры́дкі, агíдны; **a dirty word** лáянкавае, непрыстóйнае слóва; *He played a dirty trick on me.* Ён падлажыў мне свінню. ♦ **give smb. a dirty look :** *She gave me a dirty look. infml* Яна са злосцю паглядзела на мяне.
**disability** [ˌdɪsəˈbɪləti] *n.* інвалíднасць
**disable** [dɪsˈeɪbl] *v.* **1.** калéчыць, нявéчыць **2.** вывóдзіць са стрóю; *The ship was disabled.* Карабель быў выведзены са строю.
**disabled** [dɪsˈeɪbld] *adj., n.* скалéчаны, знявéчаны; **a disabled soldier** інвалíд вайны́; **the disabled** інвалíды
**disadvantage** [ˌdɪsədˈvɑːntɪdʒ] *n.* нявы́гада, нявы́гаднае станóвішча; **be at a disadvantage** быць у нявы́гадным станóвішчы
**disagree** [ˌdɪsəˈɡriː] *v.* **1.** спрачáцца; не згаджáцца; *I disagree with you.* Я з вамі не згодзен/не згодны. **2.** супярэ́чыць, не адпавядáць **3. (with)** шкóдзіць; быць шкóдным, выклікáць нястрáўнасць (*пра клімат, ежу*); *This climate disagrees with me.* Гэты клімат мне не падыходзіць.
**disagreement** [ˌdɪsəˈɡriːmənt] *n.* **1.** разыхóджанне (*у поглядах, думках*) **2.** спрэ́чка; разлáд
**disappear** [ˌdɪsəˈpɪə] *v.* знікáць; прападáць; **disappear into the crowd** змяшáцца з натóўпам
**disappearance** [ˌdɪsəˈpɪərəns] *n.* знікнéнне; прапáжа
**disappoint** [ˌdɪsəˈpɔɪnt] *v.* расчарóўваць
**disappointed** [ˌdɪsəˈpɔɪntɪd] *adj.* **(at/by) (in/with)** расчаравáны; **be disappointed** расчаравáцца, засмуцíцца
**disappointing** [ˌdɪsəˈpɔɪntɪŋ] *adj.* які́ прынóсіць расчаравáнне; *The weather has been disappointing.* Надвор'е стаіць дрэннае.

**disappointment** [ˌdɪsəˈpɔɪntmənt] *n.* расчарава́нне; **to my disappointment** на мой вялі́кі жаль

**disapproval** [ˌdɪsəˈpruːvl] *n.* **(of)** неадабрэ́нне, нездавальне́нне; нездаво́ленасць

**disapprove** [ˌdɪsəˈpruːv] *v.* **(of)** не адабра́ць

**disarm** [dɪsˈɑːm] *v.* раззбро́йваць; абяззбро́йваць (*таксама перан.*)

**disarmament** [dɪsˈɑːməmənt] *n.* раззбрае́нне; **disarmament talks** перамо́вы па пыта́ннях раззбрае́ння

**disarray** [ˌdɪsəˈreɪ] *n.* разла́д; *Their affairs fell into disarray.* Іх справы прыйшлі ў заняпад.

**disaster** [dɪˈzɑːstə] *n.* бе́дства; няшча́сце; буйна́я ава́рыя; **a disaster area** раён бе́дстваў

**disastrous** [dɪˈzɑːstrəs] *adj.* бядо́тны, няшча́сны; гі́бельны

**disband** [dɪsˈbænd] *v.* распуска́ць; распуска́цца; расфарміро́ўваць; расфарміро́ўвацца; *The group disbanded.* Група расфарміравалася.

**disbelief** [ˌdɪsbɪˈliːf] *n.* няве́р'е, недаве́р; **in utter disbelief** не ве́рачы сваі́м вуша́м

**disbelieve** [ˌdɪsbɪˈliːv] *v.* не ве́рыць (*каму-н./чаму-н.*)

**disc** [dɪsk] *n.* **1.** дыск (*у розных знач.*) **2.** *dated* (*грамафонная*) пласці́нка **3.** *med.* дыск; **a slipped disc** зрушэ́нне міжпазванко́чнага ды́ска

**discard** [dɪsˈkɑːd] *v.* выкіда́ць, вы́кідваць; **discard clothing** скіда́ць/скі́дваць адзе́жу; **discard old beliefs** адкіда́ць/адкі́дваць стары́я перакана́нні

**discern** [dɪˈsɜːn] *v. fml* распазнава́ць; разгляда́ць, разгля́дваць

**discerning** [dɪˈsɜːnɪŋ] *adj.* прані́клівы (*розум*)

**discernment** [dɪˈsɜːnmənt] *n. fml* прані́клівасць

**discharge¹** [ˈdɪstʃɑːdʒ] *n.* **1.** разгру́зка (*чаго-н.*) **2.** спуска́нне (*газу, вадкасці*) **3.** выкана́нне (*абавязкаў*) **4.** вы́плата (*даўгоў*) **5.** звальне́нне (*з працы, з арміі*); выпі́сванне (*з бальніцы*) **6.** *electr.* разра́д **7.** стрэл; залп (*з ружжаў*)

**discharge²** [dɪsˈtʃɑːdʒ] *v.* **1.** разгружа́ць (*што-н.*) **2.** *law* апра́ўдваць (*падсуднага*), вызваля́ць (*з турмы*) **3.** *fml* выко́нваць (*абавязкі*) **4.** выпла́чваць (*даўгі*) **5. (from)** звальня́ць (*з працы, з арміі*); выпі́сваць; выпі́свацца (*з бальніцы*) **6.** *fml* выстрэ́льваць, страля́ць (*з ружжа*) **7.** спуска́ць (*газ, вадкасць*)

**disciple** [dɪˈsaɪpl] *n.* **1.** ву́чань, паслядо́ўнік (*у палітыцы, рэлігіі*) **2.** апо́стал; **the twelve disciples** двана́ццаць апо́сталаў

**disciplinary** [ˈdɪsəplɪnəri] *adj.* дысцыплінáрны; **take disciplinary action** зрабіць дысцыплінáрныя за́хады

**discipline¹** [ˈdɪsəplɪn] *n.* **1.** пара́дак, дысцыплі́на **2.** прадме́т, галіна́ ве́даў, дысцыплі́на

**discipline²** [ˈdɪsəplɪn] *v.* дысцыплінава́ць; **discipline oneself** прывуча́ць сябе́ да дысцыплі́ны

**disc jockey** [ˈdɪskˌdʒɒki] *n.* дыск-жаке́й

**disclaim** [dɪsˈkleɪm] *v. fml* адрака́цца, адмаўля́цца (*ад каго-н., чаго-н.*); **disclaim all responsibility** по́ўнасцю адмаўля́цца ад адка́знасці

**disclaimer** [dɪsˈkleɪmə] *n. fml* адрачэ́нне, адмаўле́нне

**disclose** [dɪsˈkləʊz] *v.* раскрыва́ць, выкрыва́ць, выяўля́ць

**disclosure** [dɪsˈkləʊʒə] *n. fml* раскрыццё, выкрыццё, выяўле́нне

**disco** [ˈdɪskəʊ] *n.* (*скар. ад* **discotheque**) дыскатэ́ка

**discoloration** [ˌdɪsˌkʌləˈreɪʃn] *n.* абяско́лерванне; абяско́леранне

**discolour** [dɪsˈkʌlə] *v.* абяско́лерваць, пазбаўля́ць ко́леру; абяско́лерыцца

**discomfort** [dɪsˈkʌmfət] *n.* дыскамфо́рт; няўту́льнасць

**disconcert** [ˌdɪskənˈsɜːt] *v.* хваля́ваць, бянтэ́жыць, засмуча́ць; разла́джваць (*планы*)

**disconnect** [ˌdɪskəˈnekt] *v.* раз'ядно́ўваць; адключа́ць (*газ, тэлефон і да т.п.*)

**disconsolate** [dɪsˈkɒnsələt] *adj. fml* няўце́шны, няўце́шлівы

**discontent** [ˌdɪskənˈtent] *n.* **(at/over/with)** нездаво́ленасць, нездавальне́нне

**discontinue** [ˌdɪskənˈtɪnjuː] *v.* спыня́ць

**discord** [ˈdɪskɔːd] *n.* **1.** *fml* рознагало́ссе; разла́д, сва́рка; нелады́ **2.** *mus.* дысана́нс, нязла́джанасць

**discordant** [dɪsˈkɔːdənt] *adj.* **1.** *fml* нязго́дны; **discordant views** рознагало́ссі, ро́зныя по́гляды **2.** *mus.* дысана́нтны, нязла́джаны

**discotheque** [ˈdɪskətek] *n. dated* дыскатэ́ка

**discount¹** [ˈdɪskaʊnt] *n.* **(on/off smth.)** дыско́нт, скі́дка; **give/offer a discount** зрабі́ць скі́дку (*з цаны*)

**discount²** [dɪsˈkaʊnt] *v.* **1.** *finance* дыскантава́ць (*рабіць скідку пры продажы тавару*); памянша́ць цану́ **2.** *перан.* ста́віцца з недаве́рам (*да чаго-н.*)

**discounter** [ˈdɪskaʊntə] *n.* дыска́ўнтар, дыско́нтны магазі́н

**discount store** [ˈdɪskaʊntstɔː] *n.* дыска́ўнтар, дыско́нтны магазі́н

**discourage** [dɪsˈkʌrɪdʒ] *v.* **1.** бянтэ́жыць **2.** адгаво́рваць

**discouragement** [dɪsˈkʌrɪdʒmənt] *n.* **1.** збянтэ́жанасць **2.** адгаво́рванне

**discourse**[1] [ˈdɪskɔːs] *n.* **1.** абмеркава́нне **2.** *ling.* маўле́нне; дыску́рс; **discourse analysis** ана́ліз дыску́рсу
**discourse**[2] [dɪsˈkɔːs] *v. fml* **(on/upon)** разважа́ць; абмярко́ўваць
**discourteous** [dɪsˈkɜːtiəs] *adj. fml* няве́тлівы
**discourtesy** [dɪsˈkɜːtəsi] *n. fml* няве́тлівасць
**discover** [dɪsˈkʌvə] *v.* **1.** адкрыва́ць, вынахо́дзіць **2.** выяўля́ць; *It was discovered that…* Выявілі, што…
**discovery** [dɪsˈkʌvəri] *n.* адкрыццё; вынахо́дства; **make discoveries** рабіць адкры́цці, вынахо́дзіць
**discredit**[1] [dɪsˈkredɪt] *n. fml* дыскрэдыта́цыя; га́ньба; **to our discredit** со́рам, со́рамна (*за сябе*)
**discredit**[2] [dɪsˈkredɪt] *v.* дыскрэдытава́ць
**discreet** [dɪˈskriːt] *adj.* разва́жны; разва́жлівы; аба́члівы; такто́ўны; **a discreet smile** стры́маная ўсме́шка
**discrepancy** [dɪsˈkrepənsi] *n.* **(in, between)** разыхо́джанне (*у розных знач.*); неадпаве́днасць
**discrete** [dɪˈskriːt] *adj.* **1.** асо́бны **2.** *math.* дыскрэ́тны
**discretion** [dɪˈskreʃn] *n.* **1.** аба́члівасць; разва́жнасць **2.** меркава́нне; *I'll leave it to your discretion.* Я пакіну гэта на ваша меркаванне.
**discriminate** [dɪˈskrɪmɪneɪt] *v.* **1.** адро́зніваць **2.** дыскрымінава́ць
**discrimination** [dɪˌskrɪmɪˈneɪʃn] *n.* **1.** дыскрыміна́цыя **2.** прані́клівасць
**discus** [ˈdɪskəs] *n. sport* дыск; **the discus** кіда́нне ды́ска
**discuss** [dɪˈskʌs] *v.* абмярко́ўваць, дыскутава́ць
**discussion** [dɪˈskʌʃn] *n.* абмеркава́нне, дыску́сія; **be under discussion** абмярко́ўвацца
**disdain** [dɪsˈdeɪn] *n.* **(for)** пага́рда; **treat smb. with disdain** ста́віцца да каго́-н. пага́рдліва
**disdainful** [dɪsˈdeɪnfəl] *adj.* пага́рдлівы; **be disdainful of smb.** пагарджа́ць кім-н.
**disease** [dɪˈziːz] *n.* хваро́ба; **disease of childhood** дзіця́чая хваро́ба
**diseased** [dɪˈziːzd] *adj.* хво́ры; хвараві́ты (*таксама перан.*); **diseased in body and mind** хво́ры це́лам і душо́й
**disgrace**[1] [dɪsˈɡreɪs] *n.* **1.** га́ньба **2.** няла́ска; **be in disgrace** быць у няла́сцы (*у каго-н.*); **bring disgrace on smb.** зга́ньбіць каго́-н.
**disgrace**[2] [dɪsˈɡreɪs] *v.* га́ньбіць; **disgrace one's name** запля́міць сваю́ рэпута́цыю
**disgraceful** [dɪsˈɡreɪsfəl] *adj.* ганебны, непрысто́йны
**disguise**[1] [dɪsˈɡaɪz] *n.* пераапрана́нне, маскіро́ўка; **in disguise** пераапра́нуты; замаскірава́ны; скры́ты
**disguise**[2] [dɪsˈɡaɪz] *v.* **1.** пераапрана́ць, маскірава́ць; **disguise oneself** пераапрана́цца, маскірава́цца **2.** змяня́ць, зме́ньваць (*голас, почырк*) **3.** хава́ць; *He disguised his feelings.* Ён схаваў свае пачуцці.
**disgust**[1] [dɪsˈɡʌst] *n.* агі́да; *He resigned in disgust.* Ён з абурэннем пакінуў пасаду.
**disgust**[2] [dɪsˈɡʌst] *v.* выкліка́ць агі́ду (*у каго-н.*)
**disgusting** [dɪsˈɡʌstɪŋ] *adj.* агі́дны
**dish**[1] [dɪʃ] *n.* **1.** блю́да, тале́рка; *pl.* **the dishes** по́суд; **wash/do the dishes** мыць по́суд **2.** стра́ва **3.** *infml* красу́ня
**dish**[2] [dɪʃ] *v.* кла́сці на блю́да; падава́ць на стол
**dish out** [ˌdɪʃˈaʊt] *phr.v.* **1.** раскла́дваць па тале́рках (*яду*) **2.** *infml* раздава́ць (*лістоўкі, падарункі і да т.п.*)
**dish up** [ˌdɪʃˈʌp] *phr.v.* падава́ць на стол
**dishcloth** [ˈdɪʃklɒθ] *n.* ручні́к для по́суду
**dishearten** [dɪsˈhɑːtn] *v.* **1.** прыво́дзіць у разгу́бленасць, бянтэ́жыць; *Don't be disheartened!* Не падай духам! **2.** засмуча́ць, уво́дзіць у марко́ту
**dishevelled** [dɪˈʃevld] *adj.* узлахма́чаны, ускалма́чаны, ускудла́чаны
**dishonest** [dɪsˈɒnɪst] *adj.* несумле́нны
**dishonesty** [dɪsˈɒnɪsti] *n.* несумле́ннасць
**dishonor** [dɪsˈɒnə] *AmE* = **dishonour**
**dishonour**[1] [dɪsˈɒnə] *n. fml* га́ньба, нясла́ва
**dishonour**[2] [dɪsˈɒnə] *v. fml* га́ньбіць, нясла́віць
**dishonorable** [dɪsˈɒnərəbl] *AmE* = **dishonourable**
**dishonourable** [dɪsˈɒnərəbl] *adj.* гане́бны
**dishwasher** [ˈdɪʃwɒʃə] *n.* машы́на для мыцця́ по́суду
**dishwater** [ˈdɪʃwɔːtə] *n.* пamы́i
**disillusion** [ˌdɪsɪˈluːʒn] *v.* расчаро́ўваць; **a disillusioned man** расчарава́ны чалаве́к
**disillusionment** [ˌdɪsɪˈluːʒnmənt] *n.* **(with)** расчарава́нне
**disinclination** [ˌdɪsˌɪnklɪˈneɪʃn] *n. fml* нежада́нне, неахво́та
**disinclined** [ˌdɪsɪnˈklaɪnd] *adj. fml* **:** *He was disinclined to help me.* Ён не хацеў мне дапамагчы.
**disinfect** [ˌdɪsɪnˈfekt] *v.* дэзынфіцы́раваць
**disinfectant** [ˌdɪsɪnˈfektənt] *n.* сро́дак для дэзынфе́кцыі
**disinformation** [ˌdɪsɪnfəˈmeɪʃn] *n.* дэзынфарма́цыя
**disingenuous** [ˌdɪsɪnˈdʒenjuəs] *adj.* няшчы́ры
**disinherit** [ˌdɪsɪnˈherɪt] *v.* пазбаўля́ць спа́дчыны
**disintegrate** [dɪsˈɪntɪɡreɪt] *v.* распада́цца
**disintegration** [ˌdɪsɪntɪˈɡreɪʃn] *n.* дэзынтэгра́цыя, распа́д, распадзе́нне, разва́л
**disinterest** [dɪsˈɪntrəst] *n.* **1.** незаціка́ўленасць **2.** бескары́слівасць **3.** безудзе́льнасць, безува́жнасць

**disinterested** [dɪsˈɪntrəstɪd] *adj.* **1.** незацікáўлены **2.** бескары́слівы
**disjointed** [dɪsˈdʒɔɪntɪd] *adj.* бязлáдны, нясклáдны; **disjointed thoughts** бязлáдныя дýмкі
**disk** [dɪsk] *n. comput.* дыск; **a floppy disk** гíбкі дыск
**diskette** [dɪsˈket] *n. comput.* дыскéта
**dislike**[1] [dɪsˈlaɪk] *n.* нелюбóў, нялю́басць; варóжасць; *I took a dislike to him.* Я неўзлюбіў яго.
**dislike**[2] [dɪsˈlaɪk] *v.* не любíць, не падабáцца
**dislocate** [ˈdɪsləkeɪt] *v.* вывíхваць, выкрýчваць (*пра руку, нагу*)
**dislocation** [ˌdɪsləˈkeɪʃn] *n.* вы́віх, звіх
**disloyal** [ˌdɪsˈlɔɪəl] *adj.* **(to)** нелая́льны, нявéрны; здрáдлівы
**disloyalty** [ˌdɪsˈlɔɪəlti] *n.* нелая́льнасць, нявéрнасць; здрáда, здрáдлівасць
**dismal** [ˈdɪzməl] *adj.* змрóчны, хмýры, пахмýрны, панýры
**dismantle** [dɪsˈmæntl] *v.* **1.** дэманцíраваць **2.** разбірáць (*на часткі*)
**dismay**[1] [dɪsˈmeɪ] *n.* збянтэ́жанасць, разгýбленасць, тугá
**dismay**[2] [dɪsˈmeɪ] *v.* бянтэ́жыць; *He was dismayed at seeing that.* Ён збянтэжыўся, калі ўбачыў гэта.
**dismiss** [dɪsˈmɪs] *v.* **1.** звальня́ць **2.** распускáць; адпускáць **3.** адкідáць, адхіля́ць; *He dismissed it from his mind.* Ён выкінуў гэта з галавы.
**dismissal** [dɪsˈmɪsl] *n.* **1.** звальнéнне; **a wave of dismissals** хвáля звальнéнняў **2.** рóспуск; **a dismissal of a jury** рóспуск прыся́жных
**disobedience** [ˌdɪsəˈbiːdiəns] *n.* непаслухмя́насць, непадпарáдкаванне
**disobedient** [ˌdɪsəˈbiːdiənt] *adj.* непаслухмя́ны
**disobey** [ˌdɪsəˈbeɪ] *v.* не слýхаць; не слýхацца, не падпарадкóўвацца
**disorder** [dɪsˈɔːdə] *n.* **1.** непарáдак, бязлáддзе **2.** *med.* расстрóйства (*нерваў, псіхікі*)
**disorderly** [dɪsˈɔːdəli] *adj.* **1.** бязлáдны **2.** дзёрзкі; свавóльны; **disorderly behaviour** хулігáнства
**disorganization,** *BrE* **-isation** [dɪsˌɔːgənaɪˈzeɪʃn] *n.* дэзарганізáцыя
**disorganize,** *BrE* **-ise** [dɪsˈɔːgənaɪz] *v.* дэзарганізóўваць
**disorientate** [dɪsˈɔːriənteɪt] *v.* дэзарыентавáць
**disparage** [dɪˈspærɪdʒ] *v. fml* прымéншваць, прымяншáць, прыніжáць; зневажáць
**disparagement** [dɪˈspærɪdʒmənt] *n. fml* прымяншэ́нне
**disparity** [dɪˈspærəti] *n.* **(in, between)** *fml* разыхóджанне; неадпавéднасць
**dispassionate** [dɪsˈpæʃənət] *adj.* бясстрáсны; абыя́кавы, раўнадýшны; **take a dispassionate view of the situation** абыя́кава стáвіцца да сітуáцыі
**dispatch**[1] [dɪˈspætʃ] *n.* **1.** *fml* адпраўлéнне **2.** данясéнне, дэпéша ♦ **with dispatch** *fml* хýтка і эфекты́ўна
**dispatch**[2] [dɪˈspætʃ] *v. fml* **1.** адпраўля́ць (*у розных знач.*) **2.** *dated* забівáць
**dispel** [dɪˈspel] *v.* рассéйваць, развéйваць (*сумненне, трывогу і да т.п.*)
**dispensable** [dɪˈspensəbl] *adj.* неабавязкóвы; *They looked on music lessons as dispensable.* Яны лічылі, што можна абысціся без урокаў музыкі.
**dispensary** [dɪˈspensəri] *n.* **1.** аптэ́ка **2.** *dated* (бясплáтны) дыспансéр
**dispense** [dɪˈspens] *v.* **1.** *fml* раздавáць, размяркóўваць **2.** рыхтавáць лéкі па рэцэ́пце **3. (with)** абыхóдзіцца (*без чаго-н.*)
**dispenser** [dɪˈspensə] *n.* аўтамáт (*у гандлі*); размеркавáльнік, дазáтар
**dispersal** [dɪˈspɜːsl] *n.* **1.** рассéйванне **2.** разгóн (*дэманстрацыі, натоўпу*)
**disperse** [dɪˈspɜːs] *v.* **1.** разганя́ць; *The police dispersed the crowd.* Паліцыя разагнала натоўп. **2.** разыхóдзіцца, рассéйвацца; *The crowd dispersed when the rain fell.* Натоўп разышоўся, калі пайшоў дождж.
**displaced** [dɪsˈpleɪst] *adj.* **: displaced persons** прымусóвыя перасялéнцы
**display**[1] [dɪˈspleɪ] *n.* **1.** пакáз; выстáва **2.** праяўлéнне (*пра эмоцыі, інтарэс і да т.п.*); **give a display of courage** паказáць мýжнасць **3.** дысплéй, экрáн дысплéя, манітóр; **a computer display** дысплéй камп'ютара ♦ **be on display** выстаўля́цца
**display**[2] [dɪˈspleɪ] *v.* **1.** пакáзваць, выстаўля́ць **2.** праяўля́ць (*эмоцыі, інтарэс і да т.п.*) **3.** *comput.* пакáзваць інфармáцыю
**displease** [dɪsˈpliːz] *v. fml* выклікáць незадавóленасць (*у каго-н.*); не падабáцца (*каму-н.*); **be displeased with smth./smb.** быць незадавóленым чым-н./кім-н.
**displeasure** [dɪsˈpleʒə] *n. fml* **(with)** незадавóленасць, нездавальнéнне
**disposable** [dɪˈspəʊzəbl] *adj.* **1.** аднаразóвага выкарыстáння (*банка, бутэлька, бляшанка і да т.п.*) **2.** дастýпны, які́ мóжна вы́карыстаць; **disposable for service** прыдáтны для карыстáння
**disposal** [dɪˈspəʊzl] *n.* **1.** пазбаўлéнне; **the disposal of rubbish** вы́ваз смéцця; пазбаўлéнне ад смéцця **2.** размяшчэ́нне (*войска*) **3.** прáва

распараджáцца; *I'm at your disposal.* Я да вашых паслуг.

**dispose** [dɪˈspəʊz] *v. fml* **1.** размяшчáць **2. be disposed to/toward smth.** быць схíльным да чагó-н. **3. (of)** (па)збаўля́цца; *Dispose of that rubbish!* Выкіньце гэта смецце!

**disposition** [ˌdɪspəˈzɪʃn] *n.* **1.** харáктар, нóраў, натýра; *He has a cheerful disposition.* У яго вясёлы нораў. **2.** *fml* размяшчэ́нне; дыспазí-цыя (*войскаў*) **3.** *fml* схíльнасць, тэндэ́нцыя

**disproportionate** [ˌdɪsprəˈpɔːʃənət] *adj.* непрапарцыянáльны

**disprove** [ˌdɪsˈpruːv] *v.* абвяргáць (*тэорыю, факты і да т.п.*)

**disputable** [dɪˈspjuːtəbl] *adj. fml* спрэ́чны, недакáзаны; **disputable points** спрэ́чныя пытáнні

**dispute**[1] [dɪˈspjuːt, ˈdɪspjuːt] *n. fml* **1. (over/about)** ды́спут; дыскýсія; спрэ́чка; **beyond dispute** бясспрэ́чна; *The ownership of the house is in dispute.* Права ўласнасці на гэты дом аспрэчваецца. **2.** свáрка, рознагалóссе

**dispute**[2] [dɪˈspjuːt] *v.* **1.** аспрэ́чваць **2.** спрачáцца; *There is no disputing about tastes.* Аб густах не спрачаюцца.

**disqualification** [dɪsˌkwɒlɪfɪˈkeɪʃn] *n.* дыскваліфікáцыя

**disqualify** [dɪsˈkwɒlɪfaɪ] *v.* **(from)** дыскваліфікавáць, прызнавáць няздóльным (*да чаго-н.*); **disqualify smb. for the Olympic Games** пазбáвіць кагó-н. прáва ўдзéльнічаць у Алімпíйскіх гýльнях

**disquiet** [dɪsˈkwaɪət] *n. fml* хвалявáнне, неспакóй; дрэ́ннае прадчувáнне

**disregard**[1] [ˌdɪsrɪˈɡɑːd] *n.* **(for/of)** грэ́баванне, пагарджáнне (*кім-н., чым-н.*)

**disregard**[2] [ˌdɪsrɪˈɡɑːd] *v.* **1.** грэ́баваць, пагарджáць (*кім-н., чым-н.*) **2.** не звяртáць увагí (*на што-н.*); ігнаравáць; **disregard orders** не выкóнваць загáды

**disreputable** [dɪsˈrepjətəbl] *adj.* ганéбны, непрыстóйны; **a disreputable area** раён, які́ мáе кéпскую слáву

**disrepute** [ˌdɪsrɪˈpjuːt] *n.* дрэ́нная слáва; **fall into disrepute** набывáць дрэ́нную слáву

**disrespect** [ˌdɪsrɪˈspekt] *n.* **(for/to)** непавáга, непашáна; **disrespect for the law** непавáга да закóну

**disrespectful** [ˌdɪsrɪˈspektfəl] *adj.* **(to)** непавáжлівы, непачцíвы

**disrupt** [dɪsˈrʌpt] *v.* **1.** перабівáць; спыня́ць **2.** падрывáць; зрывáць; раскóлваць; **disrupt discipline** парушáць дысцыплíну

**disruption** [dɪsˈrʌpʃn] *n.* падры́ў; зрыў; крушэ́нне; **the disruption of an empire** крушэ́нне імпéрыі

**dissatisfaction** [dɪsˌsætɪsˈfækʃn] *n.* **(at/with)** нез(а)давóленасць, нез(а)давальнéнне

**dissatisfied** [dɪsˈsætɪsfaɪd] *adj.* **(with)** незадавóлены

**dissect** [dɪˈsekt] *v.* **1.** анатамíраваць **2.** разбірáць, аналізавáць **3.** рассякáць; разрэ́зваць, разразáць

**dissection** [dɪˈsekʃn] *n.* **1.** дысéкцыя; анатамíраванне **2.** разбóр, анáліз

**disseminate** [dɪˈsemɪneɪt] *v. fml* распаўсю́джваць; **disseminate information** распаўсю́джваць інфармáцыю

**dissemination** [dɪˌsemɪˈneɪʃn] *n.* распаўсю́джванне

**dissent** [dɪˈsent] *n.* нязгóда; **religious dissent** рэлігíйнае іншадýмства

**dissertation** [ˌdɪsəˈteɪʃn] *n.* **(on)** дысертáцыя

**dissident** [ˈdɪsɪdənt] *n.* дысідэ́нт; дысідэ́нтка

**dissimilar** [dɪˈsɪmɪlə] *adj.* **(from, to)** непадóбны; *These drinks are not dissimilar.* Гэтыя напоі аднолькавыя.

**dissimilarity** [ˌdɪsɪmɪˈlærəti] *n.* непадóбнасць, непадабéнства

**dissimilation** [dɪˌsɪmɪˈleɪʃn] *n. ling.* **1.** стрáта падабéнства **2.** дысіміля́цыя

**dissolute** [ˈdɪsəluːt] *adj. fml* распýшчаны, распýсны

**dissolve** [dɪˈzɒlv] *v.* **1.** распускáць, растварáць; растварáцца (*пра соль, цукар і да т.п.*) **2.** распускáць (*арганізацыю, парламент*); **dissolve in(to) smth.** даць вóлю (*пачуццям*); *She dissolved into tears.* Яна залілася слязьмі.

**dissonance** [ˈdɪsənəns] *n. mus.* дысанáнс (*таксама перан.*)

**dissuade** [dɪˈsweɪd] *v.* **(from)** адгавóрваць, перакóнваць у адварóтным

**distance** [ˈdɪstəns] *n.* **1.** адлéгласць, дыстáнцыя; **at a distance of three miles** на адлéгласці трох міль **2.** прамéжак чáсу; *At this distance in time I cannot remember*. Праз столькі часу я не магу гэтага памятаць. ♦ **from a distance** здалёк, здалёку; **in the distance** удалечынí; **keep one's distance** трымáцца ўбакý; **keep smb. at a distance** трымáць кагó-н. на знáчнай адлéгласці

**distant** [ˈdɪstənt] *adj.* **1.** далёкі, аддáлены; **a distant relative** далёкі сваяк **2.** стры́маны; недружалю́бны

**distaste** [dɪsˈteɪst] *n.* **(for)** агíда (*да каго-н., чаго-н.*)

**distasteful** [dɪsˈteɪstfəl] *adj.* непрыéмны; кры́ўдны; **distasteful truth** гóркая прáўда

**distil** [dɪˈstɪl] *v.* дыстылявáць; ачышчáць; перагання́ць (*на гарэлку*)

**distillery** [dɪˈstɪləri] *n.* вінакýрны завóд; брóвар

**distinct** [dɪˈstɪŋkt] *adj.* **1.** вырáзны; я́сны; **distinct writing** разбóрлівы пóчырк **2.** адмéтны; **distinct dialects** адмéтныя дыялéкты

**distinction** [dɪˈstɪŋkʃn] *n.* **1.** адрóзненне **2.** адмéтная асаблíвасць; **a writer of distinction** вы-дáтны пісьмéннік **3.** пашáна; **give smb. a distinction** ушанавáць кагó-н.

**distinctive** [dɪˈstɪŋktɪv] *adj.* адмéтны; характэ́рны; асаблíвы

**distinctly** [dɪˈstɪŋktli] *adv.* вырáзна, я́сна; *He spoke distinctly.* Ён гаварыў выразна; **distinctly better** знáчна лéпшы

**distinguish** [dɪˈstɪŋgwɪʃ] *v.* **1.** адрóзніваць; вылучáць; **distinguish oneself by smth.** вылучáцца чым-н. **2.** разбірáць, распазнавáць

**distinguished** [dɪˈstɪŋgwɪʃt] *adj.* вядóмы, выдáтны

**distort** [dɪˈstɔːt] *v.* скажáць, скрыўля́ць, перакрýчваць; **a distorted picture** скажóная карцíна

**distract** [dɪˈstrækt] *v.* адця́гваць (*увагу*); збівáць з панталы́ку; **distract attention from smth.** адця́гваць увáгу ад чагó-н.

**distraction** [dɪˈsrækʃn] *n.* **1.** адцягнéнне ўвáгі; рассéянасць **2.** забáва, пацéха ♦ **to distraction :** *The children are driving me to distraction today.* Сёння дзеці даводзяць мяне да шаленства; *He loves her to distraction.* Ён кахае яе без памяці.

**distress**[1] [dɪˈstres] *n.* **1.** гóра **2.** ця́жкае станóвішча; **economic/financial distress** ця́жкае эканамíчнае/фінáнсавае станóвішча **3.** бядá, бéдства; **a distress signal** сігнáл бéдства

**distress**[2] [dɪˈstres] *v.* прынóсіць гóра, трывóгу, мýкі, пакýты; **distress oneself** трывóжыцца, мýчыцца, гаравáць, пакýтаваць

**distribute** [dɪˈstrɪbjuːt] *v.* **(to/among) 1.** размяркóўваць, раздавáць **2.** распаўсю́джваць; распаўсю́джвацца

**distribution** [ˌdɪstrɪˈbjuːʃn] *n.* **1.** распаўсю́джванне **2.** размеркавáнне; раздáча **3.** *ling.* дыстрыбýцыя

**distributor** [dɪˈstrɪbjətə] *n.* дыстрыб’ю́тар, распаўсю́джвальнік (*тавараў*)

**district** [ˈdɪstrɪkt] *n.* раён, акрýга (*горада, краіны*)

**district attorney** [ˌdɪstrɪktəˈtɜːni] *n. AmE* акругóвы пракурóр

**distrust**[1] [dɪsˈtrʌst] *n.* **(of)** недавéр; сумнéнне, падазрóнасць; **hold smb. in distrust** сумнявáцца ў кім-н.

**distrust**[2] [dɪsˈtrʌst] *v.* не давярáць, стáвіцца з недавéрам (*да каго-н.*); сумнявáцца; не вéрыць

**distrustful** [dɪsˈtrʌstfəl] *adj.* **(of)** недавéрлівы; **be distrustful of one's abilities** сумнявáцца ў сваíх здóльнасцях

**disturb** [dɪˈstɜːb] *v.* **1.** парушáць спакóй; турбавáць; ***Do not disturb***. Не турбаваць (*таблічка ў гатэлі*). **2.** непакóіць; хвалявáць; *He was disturbed by the news*. Навіна ўсхвалявала яго. **3.** замінáць

**disturbance** [dɪˈstɜːbəns] *n.* **1.** непакóй; беспарáдак **2.** беспарáдкі, хвалявáнні (*на вуліцах*) **3.** трывóга

**disturbing** [dɪˈstɜːbɪŋ] *adj.* турбóтны; **a disturbing piece of news** пры́края навінá

**ditch** [dɪtʃ] *n.* канáва, роў, кювéт

**dither** [ˈdɪðə] *v.* **(over)** вагáцца, быць няўпэ́ўненым

**ditto** [ˈdɪtəʊ] *n., adv.* тóе сáмае; таксáма

**ditty** [ˈdɪti] *n.* (карóткая) пéсенька

**divan** [dɪˈvæn] *n. BrE* тахтá

**dive**[1] [daɪv] *n.* нырóк, скачóк (*у ваду*); **make a dive** нырнýць, даць нырцá (*таксама перан.*)

**dive**[2] [daɪv] *v.* нырáць; знікáць (*таксама перан.*); *The animal dived into its hole.* Звярок шмыгнуў у нару; *He dived into his pocket.* Ён сунуў руку ў кішэнь.

**diver** [ˈdaɪvə] *n.* нырэ́ц; вадалáз

**diverge** [daɪˈvɜːdʒ] *v. fml* разыхóдзіцца ў рóзныя бакí; *Opinions diverge greatly on this issue.* Думкі па гэтай праблеме зусім розныя.

**divergence** [daɪˈvɜːdʒəns] *n.* дывергéнцыя; разыхóджанне

**diverse** [daɪˈvɜːs] *adj.* рóзны; разнастáйны; своеасаблíвы, адмéтны

**diversion** [daɪˈvɜːʃn] *n.* **1.** адхілéнне **2.** аперáцыя, якáя правóдзіцца, каб адцягнýць увáгу **3.** аб’езд **4.** *fml* забáва, пацéха

**diversity** [daɪˈvɜːsəti] *n.* рóзнасць; непадóбнасць; разнастáйнасць; **diversity of tastes** рóзнасць гýстаў; **a wide/great diversity of opinion** разнастáйнасць дýмак

**divert** [daɪˈvɜːt] *v.* **1.** адхіля́ць (*у розных знач.*); мяня́ць кірýнак **2.** адця́гваць увáгу

**divide** [dɪˈvaɪd] *v.* дзялíць; дзялíцца; падзяля́ць; падзяля́цца (*у розных знач.*); **divide by 2** дзялíць на 2 ♦ **divide and rule** раздзяля́й і панýй; **a policy of divide and rule** палíтыка «раздзяля́й і панýй»

**dividend** [ˈdɪvɪdend] *n.* **1.** *finance* дывідэ́нд **2.** *math.* дзялíмае, дзéліва

**divine**[1] [dɪˈvaɪn] *adj.* **1.** бóскі; **the Divine Comedy** «Бóская камéдыя» **2.** *infml, dated* чарóўны, цудóўны

**divine**[2] [dɪˈvaɪn] *v. fml* угáдваць

**division** [dɪˈvɪʒn] *n.* **1.** *math.* дзяле́нне **2.** падзе́л **3.** *mil.* дыві́зія **4.** аддзе́л

**divorce**[1] [dɪˈvɔːs] *n.* разво́д; разры́ў; **the divorce rate** працэ́нт разво́даў

**divorce**[2] [dɪˈvɔːs] *v.* разво́дзіцца, касава́ць шлюб

**DIY** [ˌdiːaɪˈwaɪ] *adj.* (*скар. ад* **do-it-yourself**) самаро́бны; **a DIY store** магазі́н «Зрабі́ сам»

**dizziness** [ˈdɪzinəs] *n.* галавакружэ́нне

**dizzy** [ˈdɪzi] *adj.* **1. :** *I am dizzy.* У мяне кружыцца галава. **2.** галавакру́жны, надзвыча́йны ♦ **the dizzy heights** *infml* высо́кая паса́да

**DJ** [ˈdiːdʒeɪ] *n.* (*скар. ад* **disc jockey**) дыджэ́й, дыск-жаке́й

**DNA** [ˌdiːenˈeɪ] *n. biochem.* (*скар. ад* **deoxyribonucleic acid**) ДНК

**do** [duː] **(did, done)** *v.* **1.** рабі́ць, працаваць; выко́нваць; *What does your father do?* Кім працуе ваш бацька?; *What can I do for you?* Што я магу зрабіць для вас?; *It won't do any good.* Не будзе карысці ад гэтага; **do the dishes** мыць по́суд; **do one's duty** выко́нваць свой абавя́зак; **do one's hair** рабі́ць прычо́ску; **do one's homework** рабі́ць уро́кі; **do one's room** прыбіра́ць у пако́і **2.** рабі́ць, дзе́йнічаць; паво́дзіць сябе́; **do as you like** рабі́ць як хо́чацца; *Do as I tell you.* Слухайце мяне. **3.** вывуча́ць; *He is doing English.* Ён вывучае англійскую мову. **4.** заверша́ць; **do a sum** раша́ць арыфметы́чную зада́чу **5.** вары́ць, гатава́ць; *The potatoes are done.* Бульба зварылася/гатова. **6.** адслужы́ць; адсе́дзець (*у турме*); *He did ten years.* Ён адслужыў дзесяць гадоў. **7.** *BrE, infml* ашу́кваць; *I've been done.* Мяне ашукалі. **8.** *infml* быць адпаве́дным/дастатко́вым; *That will do.* Хопіць!; Досыць!; Даволі!; Годзе!; *That will never do.* Гэта нікуды не варта!; *I haven't brought the dictionary, will tomorrow do?* Я не прынёс слоўнік, можна заўтра? **9.** спраўля́цца; *How did he do in his exams?* Як ён здаў экзамены?; *My roses are doing well.* Мае ружы добра растуць; *The patient is doing well.* Хворы папраўляецца; ***How do you do*?** Добры дзень, як маецеся? (*прывітанне падчас сустрэчы*) **10.** [du, də] **:** (*дапаможны дзеяслоў, які ўжываецца для ўтварэння пытальнай, адмоўнай формаў дзеяслова*) *Do you speak English?* Вы гаворыце па-англійску?; *I do not/I don't speak French.* Я не гавару па-французску. **11.** (*ужываецца для ўзмацнення*) *Do come in!* Дык праходзьце ж!; *I do want to go to the match.* Я вельмі хачу пайсці на матч. **12.** (*ужываецца для замены дзеяслова, каб пазбегнуць паўтору*) *They promised to help, and they did.* Яны абяцалі дапамагчы і дапамаглі.

**do away** [ˌduːəˈweɪ] *phr.v.* **1. (with smth.)** *infml* пако́нчыць з чым-н. **2. (with smb.)** забі́ць каго́-н.; **do away with oneself** скo̓нчыць (жыццё) самагу́бствам

**do up** [ˌduːˈʌp] *phr.v.* **1.** зашпі́льваць; **do up a parcel** завя́зваць паке́т **2.** *BrE* **do up a room** рабі́ць касметы́чны рамо́нт **3.** прыбіра́цца; *She has done herself up for the party.* Яна прыбралася на вечарынку.

**do with** [ˌduːˈwɪð] *phr.v.* **1.** мець патрэ́бу (*у чым-н.*); *I could do with a cup of coffee.* Я ахвотна выпіў бы кубачак кавы; *That coat could do with a clean.* Не пашкодзіла б пачысціць гэта паліто. **2.** займа́цца (*чым-н.*); *He doesn't know what to do with himself.* Ён не ведае, чым займацца. **3.** мець спра́ву (*з кім-н., чым-н.*); *He has to do with lots of people.* Ён мае справу са шмат якімі людзьмі. **4.** даты́чыцца; *It has nothing to do with you.* Гэта вас не датычыцца. **5.** мець дачыне́нне; *Hard work had a lot to do with his success.* Руплівая праца адыграла вялікую ролю ў яго поспеху.

**do without** [ˌduːwɪˈðaʊt] *phr.v.* абыхо́дзіцца (*без чаго-н.*)

**D. O. B.** (*скар. ад* **date of birth**) да́та нараджэ́ння

**docile** [ˈdəʊsaɪl] *adj.* паслухмя́ны, пада́тлівы

**dock**[1] [dɒk] *n.* док; **dry dock** сухі́ док; *pl.* **docks** верф

**dock**[2] [dɒk] *v.* **1.** ста́віць у док; увахо́дзіць у док **2.** стыкава́цца (*пра касмічныя караблі*)

**dock**[3] [dɒk] *n.* ла́ва падсу́дных

**docker** [ˈdɒkə] *n.* до́кер, парто́вы рабо́чы

**dockyard** [ˈdɒkjɑːd] *n.* верф

**doctor** [ˈdɒktə] *n.* **1.** до́ктар, ура́ч, ле́кар **2.** до́ктар (*вучоная ступень*); **a Doctor of Philosophy** до́ктар філасо́фіі

**doctrine** [ˈdɒktrɪn] *n.* дактры́на, вучэ́нне

**document**[1] [ˈdɒkjumənt] *n.* дакуме́нт

**document**[2] [ˈdɒkjument] *v.* дакументава́ць

**documentary**[1] [ˌdɒkjuˈmentri] *n.* дакумента́льны фільм

**documentary**[2] [ˌdɒkjuˈmentri] *adj.* дакумента́льны

**dodge**[1] [dɒdʒ] *n.* выкрунта́сы, выкрута́сы, хі́трыкі

**dodge**[2] [dɒdʒ] *v.* **1.** (ху́тка) хава́цца, укрыва́цца; **dodge behind a tree** хава́цца за дрэ́вам **2.** уві́льваць, ухіля́цца, выкру́чвацца; **dodge a blow** ухіля́цца ад уда́ру; **dodge a question** уві́льваць ад адка́зу; *He dodged his military service.* Ён ухіліўся ад службы ў войску.

**dodgy** [ˈdɒdʒi] *adj. BrE, infml* **1.** выкру́тлівы; вёрткі; хі́тры; несумле́нны; **a dodgy character** падазро́ны тып **2.** ка́верзны; **a dodgy situation** заблы́таная сітуа́цыя

**doe** [dəʊ] *n.* са́мка (*аленя, зайца і да т.п.*)

**does** [dʌz, dəz] *v. 3-я асоба, адз. л., цяпер. ч. ад* **do**

**doesn't** [ˈdʌznt] *скар. ад* **does not**

**dog** [dɒg] *n.* саба́ка ♦ **a lazy dog** гульта́й, лайда́к, абібо́к; **a lucky dog** шчаслі́вец; **a sly dog** хітру́н; **a dog in the manger** саба́ка на се́не; **a dog's life** *infml* саба́чае жыццё; **go to the dogs** *infml* разары́цца; **take a hair of the dog** пахмяля́цца; **let sleeping dogs lie!** ≅ не будзі́ лі́ха, паку́ль ці́ха!; **there's life in the old dog yet** ≅ ёсць яшчэ́ по́рах у парахаўні́цах

**dogged** [ˈdɒgɪd] *adj.* упа́рты, насто́йлівы; **a dogged determination** упа́ртая рашу́часць

**dogma** [ˈdɒgmə] *n.* до́гма

**dogmatic** [dɒgˈmætɪk] *adj.* дагматы́чны

**DoH** (*пісьмовае скар. ад* **Department of Health**) Міністэ́рства ахо́вы здаро́ўя (*у Вялікабрытаніі*)

**doing** [ˈduːɪŋ] *n.* учы́нак; рабо́та; *This was his doing.* Гэта яго работа. ♦ **it will take some doing** гэ́та не так про́ста

**do-it-yourself** [ˌduːɪtjɔːˈself] *adj.* самаро́бны; **a do-it-yourself store** мага́зін «Зрабі́ сам»

**dole** [dəʊl] *n. BrE, infml* **: be on the dole** атры́мліваць дапамо́гу па беспрацо́ўі

**dole out** [ˌdəʊlˈaʊt] *phr.v.* выдава́ць, размяркоўваць

**doll** [dɒl] *n.* **1.** ля́лька (*таксама перан.*) **2.** *dated, derog.* кра́ля

**dollar** [ˈdɒlə] *n.* до́лар

**dollop** [ˈdɒləp] *n. infml* вялі́кая по́рцыя

**dollhouse** [ˈdɒlhaʊz] *AmE* = **doll's house**

**doll's house** [ˈdɒl(z)haʊz] *n.* ля́лечны до́мік

**dolly** [ˈdɒli] *n.* ля́лька; **a dolly bird** *BrE, infml* кра́ля

**dolphin** [ˈdɒlfɪn] *n.* дэльфі́н

**domain** [dəˈmeɪn] *n.* **1.** улада́нне, маёнтак **2.** сфе́ра, во́бласць (*перан.*); галіна́; *These matters are in his domain.* Гэтыя справы ўваходзяць у яго кампетэнцыю. **3.** *comput.* даме́н

**dome** [dəʊm] *n. archit.* ку́пал

**domed** [dəʊmd] *adj.* **: a domed forehead** пука́ты лоб

**domestic** [dəˈmestɪk] *adj.* **1.** дама́шні, ха́тні, сяме́йны **2.** уну́траны; **domestic affairs/politics** уну́траныя спра́вы; **domestic flights** мясцо́выя авіярэ́йсы

**dominance** [ˈdɒmɪnəns] *n.* перава́га; панава́нне

**dominant[1]** [ˈdɒmɪnənt] *n.* даміна́нта

**dominant[2]** [ˈdɒmɪnənt] *adj.* перава́жны; пану́ючы; даміну́ючы

**dominate** [ˈdɒmɪneɪt] *v.* пераважа́ць; панава́ць; дамінава́ць; *The cathedral dominates the city.* Сабор узвышаецца над горадам.

**dominion** [dəˈmɪniən] *n.* **1.** *fml* **(over)** панава́нне, улада́ранне **2.** *hist.* дамініён

**domino** [ˈdɒmɪnəʊ] *n.* **1.** косць даміно́ **2.** *pl.* **dominoes** даміно́ (*гульня*)

**don[1]** [dɒn] *n. BrE* прафе́сар; выкла́дчык (*брытанскага ўніверсітэта*)

**don[2]** [dɒn] *v. fml* надзява́ць, апрана́ць (*плашч, паліто і да т.п.*); **don oneself (in)** апрана́цца

**donate** [dəʊˈneɪt] *v.* дары́ць; ахвярава́ць

**donation** [dəʊˈneɪʃn] *n.* ахвярава́нне (*грошай, тавараў*)

**done[1]** [dʌn] *adj.* ♦ **be done for** *infml* быць у ве́льмі дрэ́ннай сітуа́цыі; **be done in** *infml* быць ве́льмі сто́мленым

**done[2]** [dʌn] *p.p* → **do**

**donkey** [ˈdɒŋki] *n.* асёл ♦ **for donkey's years** *BrE, infml* цэ́лую ве́чнасць

**donor** [ˈdəʊnə] *n.* ахвярава́льнік; до́нар (*крыві, трансплантата*)

**don't** [dəʊnt] *скар. ад* **do not**

**doodle[1]** [ˈduːdl] *n.* крамзо́лі, кара́кулі

**doodle[2]** [ˈduːdl] *v.* чы́ркаць, крэ́мзаць

**doom[1]** [duːm] *n.* гі́бель, пагі́бель ♦ **doom and gloom** *infml* кане́ц све́ту

**doom[2]** [duːm] *v.* наканава́ць (*звыч. passive*); **be doomed (to)** быць наканава́ным; *The plan was doomed to failure.* План быў асуджаны на правал.

**doomsday** [ˈduːmzdeɪ] *n.* Стра́шны суд, дзень Стра́шнага суда́, кане́ц све́ту ♦ **till doomsday** *infml* да друго́га прышэ́сця

**door** [dɔː] *n.* дзве́ры; **the front door** пара́дныя дзве́ры; **the back door** чо́рны ход; **a sliding door** рассо́ўныя дзве́ры; **a revolving door** дзве́ры-вярту́шка; **answer the door** адчыня́ць дзве́ры; **out of doors** на во́льным паве́тры; *He lives* ***next door****.* Ён жыве ў суседнім доме; *The taxi took us* ***from door to door****.* Таксі нас давезла ад дзвярэй да дзвярэй.

**doorbell** [ˈdɔːbel] *n.* дзвярны́ звано́к

**doorman** [ˈdɔːmən] *n.* (*pl.* **-men**) швейца́р

**doorstep** [ˈdɔːstep] *n.* паро́г; прысту́пка паро́га

**doorway** [ˈdɔːweɪ] *n.* дзвярны́ праём; **in the doorway** у дзвяра́х, на паро́зе

**dope** [dəʊp] *n.* **1.** *infml* нарко́тык **2.** до́пінг **3.** *infml* дуры́ла, ду́рань, ідыёт

**dorm** [dɔːm] *n. AmE, infml* (*скар. ад* **dormitory**) інтэрна́т

**dormitory** [ˈdɔːmətri] *n. AmE* інтэрна́т

**dose¹** [dəʊs] *n.* до́за; по́рцыя; **a lethal dose** смяро́тная до́за
**dose²** [dəʊs] *v.* прыма́ць ле́кі до́замі; *He dosed himself with aspirin.* Ён лячыў сябе аспірынам.
**dossier** [ˈdɒsieɪ] *n.* дасье́; спра́ва; **compile a dossier** скла́сці дасье́; заве́сці спра́ву
**dot¹** [dɒt] *n.* кро́пка ♦ **on the dot** *infml* якра́з у той мо́мант; дакла́дна; **on the dot of seven/at seven on the dot** *infml* ро́ўна а сёмай гадзі́не
**dot²** [dɒt] *v.* ста́віць кро́пку ♦ **dot the i's and cross the t's** паста́віць кро́пкі над «і»
**dotty** [ˈdɒti] *adj. BrE, infml, dated* прыдуркава́ты, дурнава́ты
**double¹** [ˈdʌbl] *n.* **1.** падво́йная лі́чба (*кольказць*) **2.** двайні́к **3.** *pl.* **doubles** па́рная гульня́ (*пра тэніс*) ♦ **at the double** *BrE, infml* шпа́рка
**double²** [ˈdʌbl] *adj.* двайны́, падво́йны; **a double bed** двухспа́льны ло́жак; **a double room** пако́й на дваі́х; **a double meaning** двухсэнсо́ўнасць; *"Anna" is spelt with a double "n".* «Ганна» пішацца з дзвюма «н».
**double³** [ˈdʌbl] *v.* **1.** падво́йваць; падво́йвацца **2.** дублі́раваць; *The waiter doubles as porter.* Афіцыянт працуе насільшчыкам па сумяшчальніцтве.
**double up** [ˌdʌblˈʌp] *phr.v.* ску́рчвацца (*ад болю, страху, холаду і да т.п.*)
**double⁴** [ˈdʌbl] *adv.* у два разы́, удвайне́, удвая́
**double bass** [ˌdʌblˈbeɪs] *n.* кантраба́с, басэ́тля
**double-breasted** [ˌdʌblˈbrestɪd] *adj.* двухбо́ртны; **a double-breasted jacket** двухбо́ртны пінжа́к; **a double-breasted coat** двухбо́ртнае паліто́
**double-dealer** [ˌdʌblˈdiːlə] *n.* двуру́шнік, махля́р
**double-decker** [ˌdʌblˈdekə] *n.* **1.** двухпавярхо́вы аўто́бус, даблдэ́кер **2.** *AmE* двухслаёвы са́ндвіч
**double Dutch** [ˌdʌblˈdʌtʃ] *n. BrE, infml* кіта́йская гра́мата (*нешта незразумелае*)
**double figures** [ˌdʌblˈfɪɡəz] *n. pl.* двухзна́чны лік, двухзна́чная лі́чба; *Inflation is in double figures.* Узровень інфляцыі выражаецца двухзначнай лічбай.
**double life** [ˌdʌblˈlaɪf] *n.* двайно́е жыццё; **live/lead a double life** ве́сці двайно́е жыццё
**double-park** [ˌdʌblˈpɑːk] *v.* паркава́ць машы́ну ў другі́ рад; перашкаджа́ць даро́жна-тра́нспартнаму ру́ху; запру́джваць ву́ліцу; *I'll have to rush – I'm double-parked.* Я павінен паспяшацца: я паставіў машыну ў другі рад.
**doublespeak** [ˈdʌblspiːk] *n.* дэмаго́гія; цьмя́ныя прамо́вы
**double standard** [ˌdʌblˈstændəd] *n.* двайны́ станда́рт
**doubletalk** [ˈdʌbltɔːk] = **doublespeak**
**doubt¹** [daʊt] *n.* сумне́нне ♦ **without/beyond doubt** безумо́ўна, бясспрэ́чна; **no doubt** напэ́ўна, му́сіць; **be in doubt** сумнява́цца
**doubt²** [daʊt] *v.* сумнява́цца; падазрава́ць; не давяра́ць
**doubtful** [ˈdaʊtfəl] *adj.* **1. (about)** няпэ́ўны **2.** падазро́ны **3.** малавераго́дны; *It is doubtful whether he will come.* Малаверагодна, што ён прыйдзе.
**doubtless** [ˈdaʊtləs] *adv. fml* безумо́ўна, бясспрэ́чна, без сумне́ння
**dough** [dəʊ] *n.* **1.** це́ста **2.** *infml, dated* гро́шы
**doughnut** [ˈdəʊnʌt] *n.* пы́шка; по́нчык
**dour** [ˈdaʊə] *adj.* суро́вы (*пра чалавека*); **dour silence** змро́чная цішыня́
**douse** [daʊs] *v.* **1.** заліва́ць **2.** тушы́ць, гасі́ць
**dove** [dʌv] *n.* го́луб
**dovecote** [ˈdʌvkɒt, ˈdʌvkəʊt] *n.* галубя́тня
**dovetail¹** [ˈdʌvteɪl] *n. tech.* дэта́ль (*у выглядзе хваста ластаўкі*)
**dovetail²** [ˈdʌvteɪl] *v. fml* увя́звацца, сумяшча́цца
**down¹** [daʊn] *n.* пух, пушо́к
**down²** [daʊn] *n.* няшча́сце; нягода; бяда́ ♦ **ups and downs** узлёты і спа́ды
**down³** [daʊn] *adv.* уні́з; уні́зе; *The sun is down.* Сонца села; **sit down** садзі́цца; **lie down** кла́сціся; **fall down** ляце́ць уні́з; павалі́цца; **bend down** нахілі́цца, нагну́цца
**down⁴** [daʊn] *prep.* уні́з па; па; *We walked down the hill.* Мы спускаліся з гары; *He walked down the street.* Ён ішоў па вуліцы; **further down the river** дале́й уні́з па рацэ́
**downfall** [ˈdaʊnfɔːl] *n.* падзе́нне; права́л; крах, крушэ́нне
**downhearted** [ˌdaʊnˈhɑːtɪd] *adj.* само́тны, марко́тны, прыгне́чаны
**downhill** [ˌdaʊnˈhɪl] *adv.* уні́з, згары́ (*таксама перан.*) ♦ **go downhill** пагарша́цца (*пра якасць, здароўе і да т.п.*)
**Downing Street** [ˈdaʊnɪŋstriːt] *n.* Да́ўнінг-стрыт (*вуліца ў Лондане, дзе знаходзіцца рэзідэнцыя прэм'ер-міністра*)
**download** [ˌdaʊnˈləʊd] *v. comput.* загружа́ць
**downpour** [ˈdaʊnpɔː] *n.* лі́вень, зале́ва
**Down's syndrome** [ˈdaʊnzˌsɪndrəʊm] *n. med.* хваро́ба Да́ўна
**downstairs** [ˌdaʊnˈsteəz] *adv.* **1.** уні́з (*па сходах*) **2.** уні́зе
**downstream** [ˌdaʊnˈstriːm] *adv.* уні́з (уні́зе) па цячэ́нні

**downtown** [ˌdaʊnˈtaʊn] *adv.* (*ехаць, ісці*) у цэнтр; у цэ́нтры
**downtrodden** [ˈdaʊntrɒdn] *adj.* прыгнéчаны
**downward** [ˈdaʊnwəd] *adj.* накíраваны ўніз (*пра позірк, рух і да т.п.*)
**downward(s)** [ˈdaʊnwədz] *adv.* уні́з
**doze** [dəʊz] *v.* драмáць, клявáць нóсам
**doze off** [ˌdəʊzˈɒf] *phr.v.* задрамáць
**dozen** [ˈdʌzn] *n.* **1.** (*pl.* **dozen**) тýзін; **two dozen eggs** два тýзіны я́ек **2.** *pl.* **dozens** мнóства; **dozens of times** *infml* ты́сячу разóў ♦ **baker's/devil's dozen** чóртаў тýзін; **talk nineteen to the dozen** гавары́ць не змаўкáючы; мянці́ць языкóм; **six of one and half a dozen of the other** *infml* ≅ не кíем, дык пáлкай
**dozy** [ˈdəʊzi] *adj. infml* **1.** дрымóтны, сóнны **2.** *BrE* дурны́, неразýмны
**DPhil** [ˌdiːˈfɪl] *BrE* (*скар. ад* **Doctor of Philosophy**) дóктар навýк
**Dr** (*пісьмовае скар. ад* **Doctor**) дóктар (*ужываецца перад прозвішчам*)
**drab** [dræb] *adj.* шэ́ры (*пра адзенне, будынкі і г.д.*); аднастáйны; нецікáвы
**drachma** [ˈdrækmə] *n. hist.* (*pl.* **drachmas** *or* **drachmae**) дрáхма
**drachmae** [ˈdrækmiː] *pl.* → **drachma**
**draconian** [drəˈkəʊniən] *adj. fml* **: draconian laws** дракóнаўскія закóны
**draft**[1] [drɑːft] *AmE* = **draught**
**draft**[2] [drɑːft] *n.* праéкт; чарнавíк
**draft**[3] [drɑːft] *v.* накíдваць чарнавíк
**draft**[4] [drɑːft] *n. AmE* прызы́ў (*на вайсковую службу*)
**draft**[5] [drɑːft] *v. AmE* прызывáць (*на вайсковую службу*)
**draftsman** [ˈdrɑːftsmən] *AmE* = **draughtsman**
**drag**[1] [dræg] *n. infml* **1.** нýдная асóба, занýда **2.** тóрмаз (*перан.*); перашкóда
**drag**[2] [dræg] *v.* **1.** цягнýць, валачы́ **2.** цягнýцца, плéсціся, валачы́ся ♦ **drag one's feet** марýдзіць
**drag down** [ˌdrægˈdaʊn] *phr.v.* цягнýць уніз (*таксама перан.*)
**drag on** [ˌdrægˈɒn] *phr.v.* цягнýць; цягнýцца; зацягвацца; *The performance dragged on until eleven.* Спектакль зацягнуўся да адзінаццаці гадзін.
**drag out** [ˌdrægˈaʊt] *phr.v.* **1.** выця́гваць (*таксама перан.*); *They dragged the truth out of him.* Яны выцягнулі з яго праўду. **2.** расця́гваць; расця́гвацца
**dragon** [ˈdrægən] *n.* дракóн
**dragonfly** [ˈdrægənflaɪ] *n.* страказ́á
**dragoon**[1] [drəˈguːn] *n. hist.* драгýн
**dragoon**[2] [drəˈguːn] *v. fml* прымушáць; прымýсіць
**drain**[1] [dreɪn] *n.* **1.** вадасцёк **2.** *pl.* **drains** каналізáцыя ♦ **go down the drain** *BrE, infml* быць мáрна стрáчаным; **throw money down the drain** кíдаць грóшы на вéцер
**drain**[2] [dreɪn] *v.* **1.** адвóдзіць (*ваду*) **2.** выцякáць **3.** асýшваць (*таксама перан.*); *He drained his glass.* Ён асушыў чарку да дна.
**drainage** [ˈdreɪnɪdʒ] *n.* **1.** *tech., med.* дрэнáж **2.** каналізáцыя
**draining board** [ˈdreɪnɪŋbɔːd] *n.* сушы́лка (*для посуду*)
**drainpipe** [ˈdreɪnpaɪp] *n. BrE* вадасцёкавая трубá
**drake** [dreɪk] *n.* кáчар
**drama** [ˈdrɑːmə] *n.* **1.** дрáма (*у розных знач.*); **a drama student** студэ́нт акцёрскага факультэ́та **2.** хвалю́ючае здарэ́нне ♦ **make a drama out of smth.** рабíць праблéму з чагó-н.
**dramatic** [drəˈmætɪk] *adj.* **1.** сенсацы́йны; хвалю́ючы; я́ркі; здзіўля́ючы; драматы́чны; **dramatic news** хвалю́ючая навінá **2.** тэатрáльны; **dramatic criticism** тэатрáльная кры́тыка
**dramatist** [ˈdræmətɪst] *n.* драматýрг
**dramatization,** *BrE* **-isation** [ˌdræmətaɪˈzeɪʃn] *n.* інсцэніро́ўка (*рамана, апавядання і да т.п.*)
**dramatize,** *BrE* **-ise** [ˈdræmətaɪz] *v.* **1.** драматызавáць, інсцэні́раваць **2.** *перан.* перабóльшваць
**dramedy** [ˈdrɑːmədi] *n. AmE* дрaмéдыя
**drank** [dræŋk] *past* → **drink**[2]
**drape** [dreɪp] *v.* драпіравáць; **drape a cloak over one's shoulders** хýтацца ў плашч
**drapery** [ˈdreɪpəri] *n.* **1.** драпірóўка **2.** *dated* тэксты́льныя вы́рабы
**drapes** [dreɪps] *n. pl.* парцьéры
**drastic** [ˈdræstɪk] *adj.* надзвычáйны; рашýчы; крáйні, экстрэмáльны; **drastic measures** круты́я мéры
**draught** [drɑːft] *n.* скразня́к; *There's an awful draught in here.* Тут прадзімае/праймае наскрозь.
**draughts** [drɑːfts] *n. pl. BrE* шáшкі (*гульня*)
**draughtsman** [ˈdrɑːftsmən] *n.* (*pl.* **-men**) чарцёжнік
**draughty** [ˈdrɑːfti] *adj.* **:** *It is terribly draughty in here.* Тут праймае наскрозь.
**draw**[1] [drɔː] *n.* **1.** жараб'ёўка **2.** *sport* нічыя́, нічы́йны вы́нік **3.** рóзыгрыш (*у латарэі*)
**draw**[2] [drɔː] *v.* **(drew, drawn) 1.** малявáць; рысавáць; чарці́ць; **draw up a plan of work** накідáць/накíдваць план рабóты **2.** цягнýць; **draw smb. aside** адвóдзіць кагó-н. убóк;

**draw the curtains** зашмо́ргваць што́ры; **draw back the curtains** рассо́ўваць што́ры; **draw on a cigarette** зацяѓвацца цыгарэ́тай **3.** атры́млiваць; здабыва́ць, чэ́рпаць; **draw one's salary** атры́млiваць зарпла́ту; **draw information** здабыва́ць iнфарма́цыю; **draw a conclusion** рабíць вы́вад **4.** прыцяѓваць (*увагу і да т.п.*); *She felt drawn towards him.* Яе цягнула да яго. **5.** *sport* згуля́ць унічыю́

**draw back** [ˌdrɔːˈbæk] *phr.v.* адско́кваць; адхiна́цца

**draw in** [ˌdrɔːˈɪn] *phr.v.* **1. :** *The train drew in.* Цягнік падышоў да перона. **2. :** *The days are drawing in.* Дні робяцца карацейшымі.

**draw on** [ˌdrɔːˈɒn] *phr.v.* **:** *Autumn draws on.* Восень надыходзіць.

**draw out** [ˌdrɔːˈaʊt] *phr.v.* **1. :** *The train drew out.* Цягнік адышоў ад станцыі. **2. :** *The days are drawing out.* Дні робяцца даўжэйшымі.

**draw up** [ˌdrɔːˈʌp] *phr.v.* **:** *She drew her chair up to the table.* Яна падсунула сваё крэсла да стала; *The taxi drew up at the door.* Таксі пад'ехала да дзвярэй.

**drawback** [ˈdrɔːbæk] *n.* зага́на, хíба, недахо́п

**drawbridge** [ˈdrɔːbrɪdʒ] *n.* пад'ёмны мост

**drawer** [drɔː] *n.* шуфля́да

**drawers** [drɔːz] *n. pl. dated* пантало́ны; кальсо́ны, спо́днiкi

**drawing** [ˈdrɔːɪŋ] *n.* **1.** малю́нак **2.** чарцёж

**drawing pin** [ˈdrɔːɪŋpɪn] *n. BrE* кно́пка

**drawing room** [ˈdrɔːɪŋrʊm] *n. fml* гасцёўня, гасцявы́ пако́й

**drawl**[1] [drɔːl] *n.* праця́жнае вымаўле́нне; *He spoke in a slow southern drawl.* Ён гаварыў з паўднёвым акцэнтам, расцягваючы гукі.

**drawl**[2] [drɔːl] *v.* расця́гваць (*словы*); гавары́ць, расця́гваючы гало́сныя гу́кi

**drawn** [drɔːn] *p.p.* → **draw**[2]

**dread**[1] [dred] *n.* жах, страх; апа́ска, бо́язь; **live in dread of smth.** жыць у пастая́нным стра́ху пе́рад чым-н.

**dread**[2] [dred] *v.* бая́цца, апаса́цца, адчува́ць жах; *I dread to think that…* Мне страшна думаць, што…

**dreadful** [ˈdredfəl] *adj.* жахлíвы, жу́дасны, ве́льмi дрэ́нны

**dream**[1] [driːm] *n.* **1.** сон; **have a dream** снiць сон **2.** ма́ра, мро́я, летуце́нне

**dream**[2] [driːm] *v.* **(dreamed** *or* **dreamt) 1.** снiць **2.** ма́рыць

**dream up** [ˌdriːmˈʌp] *phr.v.* выду́мваць, выдумля́ць, прыду́мваць

**dreamer** [ˈdriːmə] *n.* летуце́ннiк

**dreamt** [dremt] *past, p.p.* → **dream**[2]

**dreamy** [ˈdriːmi] *adj.* летуце́нны; **a dreamy look** летуце́нны по́зiрк

**dreariness** [ˈdrɪərɪnəs] *n.* шэ́расць

**dreary** [ˈdrɪəri] *adj.* **1.** тужлíвы, марко́тны, нудлíвы **2.** шэ́ры, змро́чны **3.** ну́дны, нецiка́вы (*пра фільм*)

**dredge** [dredʒ] *v.* драгíраваць; **dredge a harbour** паглыбля́ць і ачышча́ць га́вань (*з дапамогай землечарпалак*)

**dredge up** [ˌdredʒˈʌp] *phr. v.* вылу́ўлiваць

**dredger** [ˈdredʒə] *n.* землечарпа́лка

**dregs** [dregz] *n. pl.* **1.** аса́дак, бузá **2.** падо́нкi; **the dregs of society** падо́нкi грама́дства

**drench** [drentʃ] *v.* **: be drenched to the skin** прамо́кнуць да касце́й

**dress**[1] [dres] *n.* **1.** адзе́нне, адзе́жа, во́пратка **2.** суке́нка; **an evening dress** вячэ́рняя суке́нка

**dress**[2] [dres] *v.* **1.** адзява́ць; адзява́цца; апрана́ць; апрана́цца **2.** прыпраўля́ць (*ежу*) **3.** перавя́зваць (*рану*)

**dress up** [ˌdresˈʌp] *phr.v.* прыбiра́цца, апрана́цца па-свято́чнаму

**dress circle** [ˌdresˈsɜːkl] *theatre* бельэта́ж

**dressing** [ˈdresɪŋ] *n.* **1.** прыпра́ва, со́ус **2.** *AmE* начы́нка, фарш **3.** перавя́зачныя матэрыя́лы **4.** адзява́нне, апрана́нне

**dressing gown** [ˈdresɪŋgaʊn] *n. BrE* хала́т

**dressing room** [ˈdresɪŋrʊm] *n.* **1.** грымёрная **2.** *BrE, sport* раздзява́лка **3.** пры́мерачная

**dressing table** [ˈdresɪŋteɪbl] *n.* туале́тны сто́лiк

**dressmaker** [ˈdresmeɪkə] *n.* краве́ц; краўчы́ха

**dress rehearsal** [ˌdresrɪˈhɜːsl] *n.* генера́льная рэпеты́цыя

**drew** [druː] *past* → **draw**[2]

**dribble** [ˈdrɪbl] *v.* **1.** пуска́ць слíну **2.** ка́паць **3.** *sport* ве́сцi мяч

**dried fruit** [ˌdraɪdˈfruːt] *n.* су́шаныя фру́кты, сухафру́кты

**drier** [ˈdraɪə] *n.* = **dryer**

**drift**[1] [drɪft] *n.* **1.** цячэ́нне, плынь **2.** тэндэ́нцыя; **a population drift away from rural areas** адто́к насе́льнiцтва з се́льскай мясцо́вcovasці **3.** гу́рба, ку́ча (*снегу, лісця і да т.п.*) **4.** сэнс; *I don't get his drift.* Я яго не разумею. **5.** пасíўнасць, бяздзе́йнасць

**drift**[2] [drɪft] *v.* **1.** дрэйфава́ць; *The boat drifted out to sea.* Лодку панесла ў мора; *Clouds drifted across the sky.* У небе плылі аблокі. **2.** бяздзе́йнiчаць; *He drifted through life.* Ён жыў бяздумна.

**drift apart** [ˌdriftəˈpɑːt] *phr.v.* разысцíся; *The friends drifted apart.* Дарогі сяброў разышліся.

**drift ice** [ˈdriftaɪs] *n.* ледахóд, крыгахóд
**drifter** [ˈdrɪftə] *n. derog.* лятýн (*з адной працы на другую*)
**drill¹** [drɪl] *n.* свéрдзел; дрыль; адбóйны малатóк; **a dentist's drill** бор
**drill²** [drɪl] *v.* свідравáць
**drill³** [drɪl] *n.* **1.** трэнірóўка; практыкавáнне **2.** *mil.* страявáя падрыхтóўка
**drill⁴** [drɪl] *v.* **1.** трэніравáць; трэніравáцца; практыкавáцца **2.** *mil.* вучы́ць стрóю
**drink¹** [drɪŋk] *n.* **1.** напíтак, напóй; *Give me a drink of water.* Дайце мне глыток вады. **2.** спіртны́ напíтак; **take to drink** уцягнýцца ў п'я́нства; **drive smb. to drink** давóдзіць кагó-н. да п'я́нства
**drink²** [drɪŋk] *v.* **(drank, drunk) 1.** піць; **drink coffee** піць кáву **2.** піць, выпівáць (*гарэлку, віно*); **drink to smb./smth.** выпівáць за кагó-н./штó-н. ♦ **drink like a fish** піць запóем; **drink smb.'s health** *BrE* піць за чыё-н. здарóўе; **drink smb. under the table** *infml* перапíць кагó-н.
**drink in** [ˌdrɪŋkˈɪn] *phr.v.* паглынáць вачáмі, éсці вачáмі; слýхаць з вялíкай цікáвасцю
**drink up** [ˌdrɪŋkˈʌp] *phr.v.* дапівáць (*віно, сок і да т.п.*)
**drinkable** [ˈdrɪŋkəbl] *adj.* **1.** пітны́ **2.** смáчны
**drink-driving** [ˌdrɪŋkˈdraɪvɪŋ] *n. BrE* кіравáнне трáспартным срóдкам у нецвярóзым стáне
**drinker** [ˈdrɪŋkə] *n.* **1.** п'я́ніца **2.** пітóк; пітýшчы
**drinking water** [ˈdrɪŋkɪŋˌwɔːtə] *n.* пітнáя вадá
**drip¹** [drɪp] *n.* **1.** кáпанне; капéж **2.** крóпля, кáпля; **be put on a drip** быць пад кáпельніцай/крóпельніцай
**drip²** [drɪp] *v.* кáпаць, пáдаць крóплямі; *The tap is dripping.* З крана капае вада.
**dripping** [ˈdrɪpɪŋ] *n.* тóплены тлушч
**drive¹** [draɪv] *n.* **1.** яздá (*на машыне*); **go for a drive** (па)катáцца на машы́не; *The station is an hour's drive away.* Да вакзала гадзіна язды. **2.** пад'язнáя дарóга (*да дома*) **3.** драйв, энéргія, энтузіязм, імпэт; напóрыстасць **4.** *sport* драйв (*пра тэніс*) **5.** перадáча (*у машыне*); **left-hand drive** лéвае рулявóе кіравáнне **6.** *comput.* дыскавóд
**drive²** [draɪv] *v.* **(drove, driven) 1.** вадзíць, вéсці (*машыну, трактар і да т.п.*); **drive a car** вадзíць машы́ну **2.** éздзіць, éхаць; *We drove all over town.* Мы ездзілі па ўсім горадзе; *We drove up to the door.* Мы пад'ехалі да дзвярэй. **3.** вазíць, вéзці; *I drove them to the station.* Я адвёз іх на вакзал. **4.** ганя́ць, гнаць; **drive cattle (to market)** гнаць жывёлу (на ры́нак) **5.** забівáць, убівáць (*таксама перан.*); *He drove a nail into the plank.* Ён забіў цвік у дошку; *This drove the matter out of my head.* Гэта выбіла ў мяне ўсё з галавы. **6.** змушáць; давóдзіць да крáйнасці; **drive smb. mad** давóдзіць кагó-н. да вар'я́цтва **7.** заключáць, вéсці; **drive a bargain** заключáць здзéлку ♦ **drive smth. home to smb.** даказáць камý-н. прáвільнасць чагó-н., давéсці да разумéння чагó-н.; **be driving at :** *What is he driving at?* Што ён мае на ўвазе?
**drive away** [ˌdraɪvəˈweɪ] *phr.v.* **1.** праганя́ць **2.** ад'язджáць
**drive off** [ˌdraɪvˈɒf] *phr.v.* **1.** адганя́ць **2.** ад'язджáць
**drive out** [ˌdraɪvˈaʊt] *phr.v.* выганя́ць
**drivel** [ˈdrɪvl] *n. infml* лухтá, глýпства
**driven** [ˈdrɪvn] *p.p.* → **drive²**
**driver** [ˈdraɪvə] *n.* **1.** шафёр, вадзíцель, кірóўца; машынíст **2.** *comput.* дрáйвер
**driver's license** [ˈdraɪvəzˌlaɪsns] *AmE* = **driving licence**
**driving licence** [ˈdraɪvɪŋˌlaɪsns] *n. BrE* вадзíцельскія правы́
**drizzle¹** [ˈdrɪzl] *n.* імжá, дрóбны дождж
**drizzle²** [ˈdrɪzl] *v.* імжы́ць, імжэ́ць
**drone¹** [drəʊn] *n.* **1.** гудзéнне (*пчалы, матора і да т.п.*) **2.** трýцень (*таксама перан.*)
**drone²** [drəʊn] *v.* гудзéць, гусцí
**drone on** [ˌdrəʊnˈɒn] *phr.v.* бубнíць
**droop** [druːp] *v.* **1.** вя́нуць, нíкнуць (*пра кветкі, расліны і да т.п.*) **2.** апускáць; **droop one's head** павéсіць галавý **3.** пáдаць дýхам, журы́цца; *His spirits drooped.* Ён зажурыўся.
**drop¹** [drɒp] *n.* **1.** крóпля **2.** *pl.* **drops** *med.* крóплі, кáплі **3.** зніжэ́нне (*цэн, тэмпературы і да т.п.*) ♦ **a drop in the ocean** крóпля/кáпля ў мóры; **at the drop of a hat** зáраз, вéльмі хýтка, адрáзу
**drop²** [drɒp] *v.* **1.** кáпаць **2.** пáдаць **3.** кíдаць; выпускáць (*з рук*); кідáць (*пісьмо ў скрынку*); **drop anchor** кíнуць я́кар **4.** зніжáцца, спадáць (*пра цэны, тэмпературу, вецер і г.д.*); **drop one's voice** паніжáць гóлас **5. : drop one's eyes** *fml* апускáць вóчы; **drop a stitch** спускáць вóчка (*у вязанні*) ♦ **drop dead** рап-тóўна памéрці
**drop in** [ˌdrɒpˈɪn] *phr.v.* захóдзіць, навéдвацца
**drop off** [ˌdrɒpˈɒf] *phr.v.* **1.** змяншáцца **2.** *BrE, infml* задрамáць
**dropper** [ˈdrɒpə] *n.* піпéтка
**droppings** [ˈdrɒpɪŋz] *n. pl.* памёт (*жывёл і птушак*)
**dross** [drɒs] *n.* шлак
**drought** [draʊt] *n.* зáсуха, сухмéнь, суш

**drove¹** [drəʊv] *n.* гурт; грýпа; стáтак; **in droves** грýпамі

**drove²** [drəʊv] *past* → **drive²**

**drover** [ˈdrəʊvə] *n.* гуртаўшчы́к

**drown** [draʊn] *v.* **1.** тапíць; тапíцца; **drown one's sorrows** тапíць гóра (*у гарэлцы*) **2.** заглушáць, заглýшваць; *His voice was drowned in the noise.* Шум заглушыў яго голас.

**drowsy** [ˈdraʊzi] *adj.* асалавéлы, санлíвы, сóнны, якí дрэ́мле; *I feel drowsy.* Мяне цягне на сон.

**drug** [drʌg] *n.* **1.** лéкі, лякáрства **2.** наркóтык; **a drug addict** наркамáн; **drug traffic** кантрабáнда наркóтыкаў

**druggist** [ˈdrʌgɪst] *n. AmE* аптэ́кар; фармацэ́ўт

**drugstore** [ˈdrʌgstɔː] *n. AmE* аптэ́карская крáма

**drum¹** [drʌm] *n.* **1.** барабáн, бýбен **2.** бóчка **3.** *anat.* барабáнная перапóнка

**drum²** [drʌm] *v.* **1.** біць у барабáн **2.** барабáніць, стýкаць ♦ **drum smth. into smb.'s head** убіць што-н. у чыю́-н. галавý

**drumbeat** [ˈdrʌmbiːt] *n.* барабáнны бой

**drummer** [ˈdrʌmə] *n.* барабáншчык

**drumstick** [ˈdrʌmstɪk] *n.* **1.** барабáнная пáлачка **2.** нóжка (*курыная, гусіная і да т.п., прыгатаваная як ежа*)

**drunk¹** [drʌŋk] *n.* п'я́ны; п'я́ная; п'я́ніца

**drunk²** [drʌŋk] *adj.* **1.** п'я́ны; **dead drunk** п'я́ны да непрытóмнасці **2.** ап'янéлы; **drunk with success** ап'янéлы ад пóспеху

**drunk³** [drʌŋk] *p.p.* → **drink²**

**drunkard** [ˈdrʌŋkəd] *n. dated* п'я́ніца, п'янчýга

**drunken** [ˈdrʌnkən] *adj.* п'я́ны; **a drunken driver** п'я́ны вадзíцель

**dry¹** [draɪ] *adj.* **1.** сухí; **turn dry** вы́сахнуць; *Is my shirt dry yet*? Мая кашуля ўжо высахла? **2.** сухí, без дажджý; **a dry spell** перы́яд без апáдкаў **3.** сухí (*пра валасы, скуру*); **a shampoo for dry hair** шампýнь для сухíх валасóў **4.** сухí, несалóдкі; **dry white wine** сухóе бéлае вінó **5.** сухí, халóдны, непрывéтны; **a dry answer** халóдны адкáз **6.** сасмя́глы **7.** нецікáвы, нýдны

**dry²** [draɪ] *v.* сушы́ць; сушы́цца; сóхнуць, высыхáць; *The paint dried.* Фарба высахла; **dry the dishes/hands** выцірáць пóсуд/рýкі; **dry one's tears** уцірáць слёзы

**dry out** [ˌdraɪˈaʊt] *phr.v.* **1.** высыхáць **2.** *infml* працверазíцца (*ад алкаголю*)

**dry up** [ˌdraɪˈʌp] *phr.v.* перасыхáць, высыхáць (*пра раку, возера і да т.п.*)

**dry-cleaning** [ˌdraɪˈkliːnɪŋ] *n.* хімчы́стка

**dryer** [ˈdraɪə] *n.* сушы́лка; **a tumble drier** электры́чная сушы́лка для бялíзны

**dry goods** [ˈdraɪgʊdz] *n. pl. BrE* сухíя, сы́пкія прадýкты

**dry measure** [ˌdraɪˈmeʒə] *n.* мéра сы́пкіх рэ́чываў

**dry rot** [ˌdraɪˈrɒt] *n.* парахня́

**dry run** [ˌdraɪˈrʌn] *n.* прóба; *sport* прóбны забéг

**DSS** [ˌdiːesˈes] *hist.* (*скар. ад* **Department of Social Security**) Міністэ́рства сацыя́льнага забеспячэ́ння (*у Вялікабрытаніі*)

**DTI** [ˌdiːtiːˈaɪ] (*скар. ад* **Department of Trade and Industry**) Міністэ́рства гáндлю і прамыслóвасці (*у Вялікабрытаніі*)

**DTs** [ˌdiːˈtiːz] (*скар. ад* **delirium tremens**) *med.* бéлая гарáчка

**dual** [ˈdjuːəl] *adj.* двайны́; двaíсты; *She has dual nationality.* Яна мае двайное грамадзянства.

**dual carriageway** [ˌdjuːəlˈkærɪdʒweɪ] *n.* магістрáль (*з бар'ерам пасярэдзіне для бяспекі руху*)

**dub** [dʌb] *v.* дублíраваць (*фільм*)

**dubious** [ˈdjuːbiəs] *adj.* **1.** двухсэнсóўны; няя́сны; сумнíўны **2.** падазрóны

**duchess** [ˈdʌtʃəs] *n.* герцагíня; княгíня

**duchy** [ˈdʌtʃi] *n.* гéрцагства; кня́ства; **The Grand Duchy of Lithuania** *hist.* Вялíкае Кня́ства Літóўскае

**duck¹** [dʌk] *n.* (*pl.* **ducks** *or* **duck**) кáчка ♦ **a lame duck** няўдáчнік; **a sitting duck** лёгкі здабы́так, лёгкая здабы́ча; **like water off a duck's back** як з гýсі вадá; **take to smth. like a duck to water** ≅ адчувáць сябé як ры́ба ў вадзé; прызвычáіцца вéльмі лёгка да чагó-н.

**duck²** [dʌk] *v.* **1.** хýтка нахіля́цца; **duck one's head** хýтка нагнýць галавý **2.** акунáць; акунáцца

**duckling** [ˈdʌklɪŋ] *n.* качаня́, качанё

**duct** [dʌkt] *n.* **1.** *tech.* трубá, трýбка; прóвад **2.** *med.* канáл

**due¹** [djuː] *n.* **1.** : *To give him his due, he tried hard.* Трэба аддаць яму належнае – ён вельмі стараўся. **2.** *pl.* **dues** унёсак; **harbour dues** партóвыя збóры

**due²** [djuː] *adj.* **1.** налéжны; адпавéдны; **with due attention** з налéжнай увáгай; **after due consideration** пасля́ налéжнага разгля́ду **2.** чакáны; якí павíнен адбы́цца; *The train is due in five minutes.* Цягнік прыбудзе праз пяць хвілін; *Your subscription is due*. Вам трэба зрабіць унёсак. ♦ **in due course** у сваю́ чаргý, сваíм парáдкам

**due³** [djuː] *adv.* даклáдна, прáма; *It lies due south from here.* Гэта знаходзіцца прама на поўдзень адсюль.

**duel** [ˈdjuːəl] *n.* дуэ́ль, паяды́нак; **fight a duel** біцца на дуэ́лі

**duet** [djuˈet] *n.* дуэ́т

**due to** [ˈdjuːtuː] *prep.* **1.** праз, з-за; з прычы́ны; *The train arrived late due to thick fog.* Цягнік спазніўся з прычыны густога туману. **2.** дзя́куючы; *The team's success was largely due to his efforts.* Каманда перамагла дзякуючы яго намаганням.

**dug** [dʌg] *past, p.p.* → **dig**

**dugout** [ˈdʌgaʊt] *n.* **1.** бліндáж **2.** чóвен

**DUI** [ˌdiːjuːˈaɪ] *v. AmE* (*скар. ад* **driving under the influence**) кіравáнне трáнспартным срóдкам у нецвярóзым стáне

**duke** [djuːk] *n.* гéрцаг; **grand duke** эрцгéрцаг; вялíкі князь

**dulcimer** [ˈdʌlsɪmə] *n. mus.* цымбáлы

**dull** [dʌl] *adj.* **1.** ну́дны, нецікáвы **2.** невырáзны, няя́ркі **3.** глухí (*пра гукі*) **4.** пахму́рны (*пра дзень, надвор'е*) **5.** тупы́; **a dull pain** тупы́ боль **6.** тупы́, дурны́, неразу́мны

**duly** [ˈdjuːli] *adv.* **1.** *fml* налéжным чы́нам **2.** у налéжны час, своечасóва

**dumb** [dʌm] *adj.* **1.** нямы́; *He was struck dumb.* Ён анямеў. **2.** *infml* тупы́, неразу́мны, бязмóзгі, дурны́

**dumbfound** [dʌmˈfaʊnd] *v.* ашаламля́ць, вéльмі здзіўля́ць

**dummy**[1] [ˈdʌmi] *n.* **1.** ля́лька; **a tailor's/dressmaker's dummy** манекéн; *He stands there like a stuffed dummy.* Ён стаіць як балван. **2.** пусты́шка (*соска*) **3.** *AmE, infml* ду́рань, ёлупень, асталóп, абэ́лтух

**dummy**[2] [ˈdʌmi] *adj.* падстаўны́; **a dummy cartridge** вучэ́бны патрóн; **a dummy run** прóбны рэйс; **a dummy window** несапрáўднае акнó

**dump**[1] [dʌmp] *n.* смéтнік; звáлка (*таксама перан.*)

**dump**[2] [dʌmp] *v.* **1.** выкідáць на звáлку/смéтнік **2.** звáльваць

**dumpling** [ˈdʌmplɪŋ] *n.* **1.** клёцка **2. : a little dumpling of a child** карапу́зік

**dumps** [dʌmps] *n. pl.* **: the dumps** маркóта ♦ **be down in the dumps** *infml* маркóціцца

**dunce** [dʌns] *n. dated* тупíца, ду́рань

**dune** [djuːn] *n.* дзю́на

**dung** [dʌŋ] *n.* гной (*ад жывёл*); памёт

**dungarees** [ˌdʌŋgəˈriːz] *n. pl.* (рабóчы) камбінезóн

**dungeon** [ˈdʌndʒən] *n.* каземáт, турмá

**duplex** [ˈdjuːpleks] *n.* **1.** дом на дзве сям'í **2.** кватэ́ра з пакóямі на двух павéрхах, двухпавярхóвая кватэ́ра **3.** *tech.* ду́плекс

**duplicate**[1] [ˈdjuːplɪkət] *n.* кóпія, дублікáт ♦ **in duplicate** у двух экзэмпля́рах

**duplicate**[2] [ˈdjuːplɪkeɪt] *v.* падвóйваць, здымáць кóпію (*з чаго-н.*)

**durable** [ˈdjʊərəbl] *adj.* трывáлы, мóцны, надзéйны; **durable goods** тавáры доўгатэрмінóвага карыстáння

**duration** [djuˈreɪʃn] *n. fml* даўжыня́, праця́гласць; **of short duration** кароткачасóвы; недаўгавéчны ♦ **for the duration** *infml* на працягу пэ́ўнага чáсу

**duress** [djuˈres] *n. fml* прыму́с; **under duress** пад прыму́сам

**during** [ˈdjʊərɪŋ] *prep.* **1.** на працягу; *During the whole of that time he didn't say a word.* На працягу ўсяго гэтага часу ён не сказаў ні слова. **2.** у час, падчáс; *This happened during the war.* Гэта здарылася ў час вайны.

**dusk** [dʌsk] *n.* змяркáнне, пры́цемак; **at dusk** на змяркáнні

**dust**[1] [dʌst] *n.* пыл; **gold dust** залатанóсны пясóк; **a speck of dust** пылíнка

**dust**[2] [dʌst] *v.* **1.** сцірáць пыл (*з чаго-н.*) **2.** пасыпáць (*чым-н.*); пылíць

**dustbin** [ˈdʌstbɪn] *n. BrE* кантэ́йнер для смéцця

**duster** [ˈdʌstə] *n.* сурвэ́тка; ану́чка (*для выцірання пылу*)

**dust-jacket** [ˈdʌstdʒækɪt] *n.* супервóкладка

**dustman** [ˈdʌstmən] (*pl.* **-men**) *n. BrE* прыбірáльшчык смéцця

**dustpan** [ˈdʌstpæn] *n.* шу́флік (*для смецця*)

**dusty** [ˈdʌsti] *adj.* пы́льны

**Dutch**[1] [dʌtʃ] *n.* **1.** нідэрлáндская мóва **2. the Dutch** галáндцы, нідэрлáндцы

**Dutch**[2] [dʌtʃ] *adj.* галáндскі, нідэрлáндскі ♦ **go Dutch (with smb.)** плацíць кóжнаму за сябé (*у кафэ, рэстаране*); рабíць склáдчыну

**Dutch courage** [ˌdʌtʃˈkʌrɪdʒ] *n. BrE, infml* несапрáўдная му́жнасць, курáж пад уздзéяннем алкагóлю

**Dutchman** [ˈdʌtʃmən] (*pl.* **-men**) *n.* галáндзец

**Dutch treat** [ˌdʌtʃˈtriːt] *n.* пачасту́нак у склáдчыну, калí кóжны плáціць за сябé

**Dutchwoman** [ˈdʌtʃwʊmən] (*pl.* **-women**) *n.* галáндка

**dutiful** [ˈdjuːtɪfəl] *adj.* паслухмя́ны; аддáны

**duty** [ˈdjuːti] *n.* **1.** доўг, абавя́зак; **a sense of duty** пачуццё абавя́зку **2.** *pl.* **duties** службóвыя абавя́зкі; дзяжу́рства **3.** пóшліна; **customs duty** мы́тная пóшліна ♦ **be on duty** дзяжу́рыць; **off duty** свабóдны

**duty-free** [ˌdjuːtiˈfriː] *adj.* які́ не абкладáецца мы́тнай пóшлінай; **duty-free goods** бяспóшлінныя тавáры

**duvet** [ˈduːveɪ] *n.* падшыва́ная ко́ўдра
**DVD** [ˌdiːviːˈdiː] *comput.* (*скар. ад* **digital video-disc/digital versatile disc**) лі́чбавы ўнівер-са́льны дыск
**dwarf**[1] [dwɔːf] *n.* (*pl.* **dwarfs** *or* **dwarves**) **1.** гном **2.** ка́рлік
**dwarf**[2] [dwɔːf] *v.* **1.** замару́джваць (*рост, развіццё*) **2.** падкрэ́сліваць нязна́чнасць (*чаго-н./каго-н.*); *The old houses were dwarfed by the new tower blocks.* Новыя гмахі засланілі старыя хаты.
**dwarves** [dwɔːvz] *pl.* → **dwarf**[1]
**dwell**[1] [dwel] *v.* **(dwelt** *or* **dwelled)** *fml or lit.* жыць, пражыва́ць
**dwell**[2] [dwel] *v.* **(on/upon)** гавары́ць/піса́ць падрабя́зна (*пра што-н.*); *There's no need to dwell on this matter.* Не трэба доўга спыняцца на гэтай справе.
**dwelling** [ˈdwelɪŋ] *n. fml* жыллё (*пра дом, кватэру і да т.п.*)
**dwelling house** [ˈdwelɪŋˌhaʊs] *n. BrE, law* жылы́ дом
**dwelt** [dwelt] *past, p.p.* → **dwell**[1]
**DWI** [ˌdiːdʌbljuːˈaɪ] *AmE* (*скар. ад* **driving while intoxicated**) кірава́нне тра́нспартным сро́дкам у нецвяро́зым ста́не
**dwindle** [ˈdwɪndl] *v.* **(away)** памянша́цца, скарача́цца
**dye**[1] [daɪ] *n.* фа́рба, фарбава́льнік
**dye**[2] [daɪ] *v.* фарбава́ць
**dyed-in-the-wool** [ˌdaɪdɪnðəˈwʊl] *adj.* закарané-лы; *He is a dyed-in-the-wool conservative.* Ён закаранелы кансерватар.
**dying** [ˈdaɪɪŋ] *adj.* перадсмяро́тны; **to one's dying day** да канца́ дзён сваíх
**dyke** [daɪk] *n.* = **dike**
**dynamic** [daɪˈnæmɪk] *adj.* дынамі́чны
**dynamics** [daɪˈnæmɪks] *n.* дына́міка
**dynamism** [ˈdaɪnəmɪzəm] *n.* дынамі́зм
**dynamite** [ˈdaɪnəmaɪt] *n.* дынамі́т (*таксама пе-ран.*)
**dynamo** [ˈdaɪnəməʊ] *n.* дына́ма; *infml* **a human dynamo** энергі́чны/нясто́мны чалаве́к
**dynastic** [dɪˈnæstɪk] *adj.* дынасты́чны
**dynasty** [ˈdɪnəsti] *n.* дына́стыя
**dysentery** [ˈdɪsəntri] *n. med.* дызентэры́я
**dysfunction** [dɪsˈfʌŋkʃn] *n. med.* дысфу́нкцыя
**dysfunctional** [dɪsˈfʌŋkʃənl] *adj. med.* дысфунк-цыяна́льны
**dyslexia** [dɪsˈleksiə] *n. med.* дысле́ксія
**dyslexic** [dɪsˈleksɪk] *adj. med.* дыслексі́чны
**dyspepsia** [dɪsˈpepsiə] *n. med.* дыспепсі́я
**dyspeptic** [dɪsˈpeptɪk] *adj. med.* дыспепсі́чны
**dystrophy** [ˈdɪstrəfi] *n. med.* дыстрафі́я; **muscular dystrophy** мы́шачная дыстрафі́я

## Ee

**E, e** [iː] *n. 5-я літара англійскага алфавіта*
**E**[1] [iː] *n. mus.* но́та «мі»
**E**[2] [iː] *n.* акадэмі́чная адзна́ка «ўмо́ўна здавальня́юча»; *He got an E in/for French.* Ён атрымаў «умоўна здавальняюча» па французскай мове.
**E**[3] (*пісьмовае скар. ад* **East**; **Eastern**) усхо́д; усхо́дні
**each** [iːtʃ] *pron.* ко́жны; **each other** адзі́н аднаго́; **each and every** усе́ без выключэ́ння, усе́ да аднаго́
**eager** [ˈiːɡə] *adj.* **: be eager** ве́льмі хаце́ць, пра́гнуць; *He was eager to succeed.* Ён прагнуў поспеху.
**eagerly** [ˈiːɡəli] *adv.* з нецярпе́ннем, пра́гна
**eagerness** [ˈiːɡənəs] *n.* нецярплі́васць; запа́л; ця́га
**eagle** [ˈiːɡl] *n. zool.* аро́л
**ear**[1] [ɪə] *n.* **1.** ву́ха **2.** слых; **have an ear for music** мець до́бры музы́чны слых ♦ **be all ears** слу́хаць ве́льмі ўва́жліва; **be up to one's ears in work/debt/problems** быць па ву́шы ў рабо́це/даўга́х/праблéмах; **play by ear** ігра́ць на слых; **turn a deaf ear (to smth./smb.)** не звярта́ць увагі (на што-н./каго́-н.)
**ear**[2] [ɪə] *n.* ко́лас; **an ear corn** ката́х кукуру́зы, пача́так кукуру́зы
**earache** [ˈɪəreɪk] *n.* вушны́ боль; *I'm having* (*an*) *earache.* У мяне баляць вушы.
**eardrum** [ˈɪədrʌm] *n.* бараба́нная перапо́нка
**earl** [ɜːl] *n.* граф (*тытул у Вялікабрытаніі*)
**earlier** [ˈɜːliə] *adj., adv.* (*выш. ст. ад* **early**) ране́йшы; ране́й; **a week earlier** ты́дзень ране́й, за ты́дзень да гэ́тага
**earliest**[1] [ˈɜːliɪst] *n.* **: at the earliest** не ране́й як/чым; *They are not expected until Tuesday at the earliest.* Іх чакаюць не раней як у аўторак.
**earliest**[2] [ˈɜːliɪst] *adj., adv.* (*найвыш. ст. ад* **early**) са́мы ра́нні; ране́йшы за ўсі́х
**ear lobe** [ˈɪələʊb] *n. anat.* мо́чка ву́ха
**early**[1] [ˈɜːli] *adj.* **1.** ра́нні; пачатко́вы; **in early spring** ра́нняй вясно́й, напрадве́сні; на пача́тку вясны́; **in the early 20th century** на пача́тку XX стаго́ддзя; *He was in his early forties.* Яму было крыху больш за сорак. **2.** датэрміно́вы; ху́ткі; **early elections** датэрміно́выя вы́бары; *We await your early reply.* Мы спадзяёмся на ваш хуткі адказ; *The train was*

*10 minutes early.* Цягнік прыйшоў на 10 хвілін раней.

**early²** [ˈɜːli] *adv.* ра́на; за́гадзя ♦ **early on** ране́й, да гэ́тага

**earmark** [ˈɪəmɑːk] *v.* прызнача́ць (*грошы, час і да т.п. для пэўнай мэты*)

**earn** [ɜːn] *v.* **1.** зарабля́ць; **earn a living** зарабля́ць на пражы́так/пражыццё **2.** заслугоўваць; *Now have some rest, you've certainly earned it.* Цяпер крыху адпачніце, вы безумоўна гэта заслужылі.

**earner** [ˈɜːnə] *n.* **1.** асо́ба, яка́я зарабля́е гро́шы; карм́іцель; карм́іцелька **2.** крыні́ца дахо́ду; **a nice little earner** *infml* ве́льмі до́брая крыні́ца дахо́ду

**earnest¹** [ˈɜːnɪst] *n. dated* задатак; закла́д, зало́г

**earnest²** [ˈɜːnɪst] *adj.* **1.** сур'ёзны; рашу́чы **2.** шчы́ры; **an earnest wish** шчы́рае жада́нне

**earnest³** [ˈɜːnɪst] *adv.* **:** ♦ **in earnest** сур'ёзна; рашу́ча; *Are you in earnest?* Ты гаворыш гэта сур'ёзна?

**earnestly** [ˈɜːnɪstli] *adv.* сур'ёзна; праўдзі́ва

**earnings** [ˈɜːnɪŋz] *n. pl.* **1.** зарабо́так, заро́бак **2.** прыбы́так

**earphone** [ˈɪəfəʊn] *n.* наву́шнік

**earring** [ˈɪərɪŋ] *n.* завушні́ца

**earshot** [ˈɪəʃɒt] *n.* **:** ♦ **within/out of earshot** у ме́жах/па-за ме́жамі чу́тнасці

**Earth** [ɜːθ] *n. таксама* **the Earth** Зямля́ (*планета*)

**earth¹** [ɜːθ] *n.* **1.** зямля́, зямны́ шар **2.** зямля́, гле́ба **3.** **:** ♦ **on earth** *infml* (*часта ў спалучэнні з* **why, what, who, how, where** *у пытаннях як выраз здзіўлення, злосці і да т.п.*); ***How on earth*** *did she manage that*? І як толькі ёй гэта ўдалося?

**earth²** [ɜːθ] *v.* зазямля́ць

**earthenware** [ˈɜːθnweə] *n.* гліня́ны по́суд; кера́міка

**earthly** [ˈɜːθli] *adj. lit.* зямны́; **an earthly paradise** зямны́ рай

**earthquake** [ˈɜːθkweɪk] *n.* землятру́с, землетрасе́нне

**earthy** [ˈɜːθi] *adj.* **1.** зямны́; жыццёвы **2.** прасце́цкі; грубава́ты; **an earthy sense of humour** грубава́тае пачуццё гу́мару **3.** земляны́; зямлі́сты

**ease¹** [iːz] *n.* **1.** лёгкасць, натура́льнасць **2.** спако́й **3.** *mil. At ease!* Вольна! ♦ **be/feel ill at ease** адчува́ць сябе́ няёмка; саро́мецца

**ease²** [iːz] *v.* **1.** аблягча́ць; супако́йваць; суніма́ць боль, трыво́гу **2.** аслабля́ць; **ease (international) tension** аслабля́ць (міжнаро́днае) напру́жанне

**easel** [ˈiːzl] *n.* мальбе́рт

**easily** [ˈiːzəli] *adv.* **1.** лёгка **2.** несумне́нна, безумо́ўна

**east¹** [iːst] *n.* усхо́д; **the Far/Middle East** Далёкі/Блі́зкі Усхо́д ♦ **East or West home is best** ≅ у гасця́х до́бра, а до́ма лепш; до́бра гасцява́ці, а ле́пей у ро́днай ха́це

**east²** [iːst] *adj.* усхо́дні; **an east wind** усхо́дні ве́цер; **the east coast** усхо́дняе ўзбярэ́жжа

**east³** [iːst] *adv.* на ўсход; на ўсхо́дзе

**eastbound** [ˈiːstbaʊnd] *adj.* які́ накіро́ўваецца або́ вядзе́ на ўсход; **eastbound traffic** рух тра́нспарту на ўсход

**East End** [ˌiːstˈend] *n.* **the East End** Іст-Энд (*прамысловы і партовы раён у Лондане*)

**Easter** [ˈiːstə] *n.* Вялі́кдзень; **at Easter** на Вялі́кдзень; **an Easter egg** вялі́коднае я́йка

**eastern** [ˈiːstən] *adj.* усхо́дні; **Eastern Europe** Усхо́дняя Еўро́па

**easterner** [ˈiːstənə] *n.* чалаве́к, які́ пахо́дзіць з усхо́дняй ча́сткі краі́ны (*асабліва ў ЗША*)

**eastward(s)** [ˈiːstwəd(z)] *adv.* на ўсход

**easy¹** [ˈiːzi] *adj.* **1.** лёгкі, няця́жкі **2.** натура́льны, про́сты **3.** спако́йны; бестурбо́тны **4.** прые́мны; дружалю́бны **5.** паво́льны ♦ **as easy as anything/as ABC** *infml* ве́льмі лёгкі; лёгка; про́ста; **easy money** лёгкі заро́бак; **have an easy time** *BrE* жыць без турбо́т

**easy²** [ˈiːzi] *adv.* (*як загад*) асцяро́жна!; *Go easy with that chair – one of its legs is loose.* Асцярожна з гэтым крэслам – адна ножка хістаецца. ♦ **be easier said than done** лягчэ́й сказа́ць, чым зрабі́ць; **take it easy** *infml* не хваля́ва́цца, не злаваць; *Take it easy! Don't panic.* Не хвалюйся! Не панікуй!; **take things easy** працава́ць не ве́льмі руплі́ва, паці́ху; не напру́жвацца

**easy chair** [ˈiːziˌtʃeə] *n.* крэ́сла

**easy-going** [ˌiːziˈgəʊɪŋ] *adj.* бесклапо́тны, бестурбо́тны; памяркоўны

**eat** [iːt] *v.* **(ate, eaten) 1.** е́сці, сілкава́цца, падмацо́ўвацца; харчава́цца **2.** *infml* непако́іць; трыво́жыць; раздражня́ць; *What's eating you?* Што з табой? Што цябе трывожыць? ♦ **eat humble pie** *BrE* прыхо́дзіць з пакая́ннем; **eat like a horse** е́сці шмат; **I could eat a horse** *infml* я ве́льмі гало́дны; **eat one's words** адмаўля́цца ад ска́занага, браць сло́вы наза́д; **eat out of smb.'s hand** паднача́львацца каму́-н., быць паслухмя́ным

**eat away** [ˌiːtəˈweɪ] *phr.v.* **(at)** раз'яда́ць; разбура́ць

**eat up** [ˌiːtˈʌp] *phr.v.* даяда́ць

**eatable** [ˈiːtəbl] *adj.* ядо́мы, прыда́тны для яды́

**explosive²** [ɪkˈspləʊsɪv] *adj.* **1.** выбухо́вы; **an explosive situation** выбухованебяспе́чнае стано́вішча **2.** запа́льчывы; гара́члівы; **an explosive temper** запа́льчывы хара́ктар

**exponent** [ɪkˈspəʊnənt] *n.* **1.** выра́знік, тлума́чальнік (*ідэі, тэорыі і да т.п.*); прадстаўні́к **2.** *math.* экспане́нт, пака́зчык ступе́ні

**export¹** [ˈekspɔːt] *n.* **1. (of)** э́кспарт, вы́ваз; **for export** на э́кспарт **2.** *pl.* **exports** тава́ры на э́кспарт; **the country's major exports** асно́ўныя тава́ры, што экспарту́е гэ́та краі́на

**export²** [ɪkˈspɔːt] *v.* экспартава́ць, выво́зіць

**exporter** [ekˈspɔːtə] *n.* экспарцёр

**expose** [ɪkˈspəʊz] *v.* **1.** пакіда́ць незасцяро́жаным (*ад небяспекі, сонца, дажджу і да т.п.*); **not to be exposed to light** не пакіда́ць пад уздзе́яннем святла́; **people exposed to high levels of radiation** лю́дзі, які́я знахо́дзяцца пад уздзе́яннем высо́кіх доз радыя́цыі; *Don't expose the child to strong sunlight.* Не пакідайце дзіця на моцным санцапёку. **2.** выкрыва́ць, выяўля́ць; **expose the truth/one's fears** выяўля́ць пра́ўду/стра́хі **3.** рабіць вы́трымку (*у фатаграфіі*)

**exposed** [ɪkˈspəʊzd] *adj.* неабаро́нены, незасцяро́жаны

**exposure** [ɪkˈspəʊʒə] *n.* **1.** неабаро́ненасць, незасцяро́жанасць **2.** выкрыццё, выяўле́нне **3.** экспазі́цыя, вы́трымка; кадр (*у фатаграфіі*)

**ex-President** [ˌeksˈprezɪdənt] *n.* былы́ прэзідэ́нт, экс-прэзідэ́нт

**express¹** [ɪkˈspres] *n.* **1.** *таксама* **express train** экспрэ́с **2.** *BrE* тэрміно́вая паслу́га (*на пошце, чыгунцы і да т.п.*)

**express²** [ɪkˈspres] *adj.* **1.** тэрміно́вы; ху́ткасны; **an express bus** ху́ткасны аўто́бус **2.** *fml* я́сны, выра́зны; **express instructions** я́сныя/дакла́дныя інстру́кцыі

**express³** [ɪkˈspres] *v.* **1.** выка́зваць, выяўля́ць, пака́зваць, перадава́ць; **express interest/regret/surprise** выка́зваць ціка́васць/шкадава́нне/здзіўле́нне; *This phrase expresses exactly the meaning of the word.* Гэты выраз дакладна перадае сэнс слова. **2.** выціска́ць (*вадкасць, паветра*)

**expression** [ɪkˈspreʃn] *n.* **1.** выяўле́нне, перада́ча **2.** вы́раз (*твару, вачэй*); **an expression of amazement/disbelief/horror** выраз здзіўле́ння/недаве́ру/жа́ху; *There was a worried expression on his face.* Яго твар выглядаў занепакоеным. **3.** выка́званне, выражэ́нне, сло́ўны вы́раз; **expression of thanks/sympathy/regret** выка́званне падзя́кі/спачува́ння/шкадава́ння **4.** выра́знасць; экспрэ́сія; пачуццё (*у музыцы, спевах і да т.п.*)

**expressionism** [ɪkˈspreʃənɪzəm] *n.* экспрэсіяні́зм

**expressionist¹** [ɪkˈspreʃənɪst] *n.* экспрэсіяні́ст

**expressionist²** [ɪkˈspreʃənɪst] *adj.* экспрэсіяні́сцкі

**expressionless** [ɪkˈspreʃənləs] *adj.* невыра́зны; **an expressionless face/voice/tone** невыра́зны твар/го́лас/тон

**expressive** [ɪkˈspresɪv] *adj.* **1.** выра́зны; выра́злівы; экспрэсі́ўны; **an expressive face** выра́злівы твар **2.** выяўле́нчы; **expressive means of the language** выяўле́нчыя сро́дкі мо́вы

**expressively** [ɪkˈspresɪvli] *adv.* выра́зна; выра́зліва

**expressly** [ɪkˈspresli] *adv. fml* **1.** я́сна, выра́зна **2.** спецыя́льна, наўмы́сна; *The role was written expressly for you.* Гэта роля была напісана спецыяльна для вас.

**expropriate** [eksˈprəʊprieɪt] *v. fml* **1.** *law* экспрапрыі́раваць; канфіскава́ць; адчужа́ць **2.** адбіра́ць

**expropriation** [eksˌprəʊpriˈeɪʃn] *n.* экспрапрыя́цыя; канфіска́цыя; адчужэ́нне

**expulsion** [ɪkˈspʌlʃn] *n.* **(from)** выгна́нне, выключэ́нне (*са школы, арганізацыі і да т.п.*)

**exquisite** [ɪkˈskwɪzɪt, ˈekskwɪzɪt] *adj.* **1.** вы́танчаны; элега́нтны **2.** *fml* ве́льмі мо́цны; во́стры (*пра пачуцці, адчуванні*)

**ext.** (*пісьмовае скар. ад* **extension**) (*пра тэлефонны дадатковы нумар*) **ext. 221** дадатко́вы ну́мар 221

**extempore** [ekˈstempəri] *adj. fml* імправізава́ны

**extemporize,** *BrE* **-ise** [ɪkˈstempəraɪz] *v. fml* імправізава́ць

**extend** [ɪkˈstend] *v.* **1.** пашыра́ць, падаўжа́ць, праця́гваць; распасціра́цца **2. (to)** выка́зваць, праяўля́ць; **extend a warm welcome** цёпла сустрэ́ць; **extend thanks/condolences to smb.** выка́зваць падзя́ку/спачува́нні каму́-н.

**extension** [ɪkˈstenʃn] *n.* **1. (of)** пашырэ́нне, павелічэ́нне **2. (of)** адтэрміно́ўка; працяг (*тэрміну*), прадаўжэ́нне **3. (to)** прыбудо́ва; працяг (*дарогі, лініі метро і да т.п.*) **4.** дадатко́вы, даба́вачны ну́мар (*тэлефона*); *My extension (number) is 25.* Мой дадатковы нумар 25.

**extensive** [ɪkˈstensɪv] *adj.* вялі́зны; шыро́кі

**extensively** [ɪkˈstensɪvli] *adv.* шыро́ка; шмат; ча́ста; **a spice used extensively in Indian cooking** прыпра́ва, яка́я шыро́ка ўжыва́ецца ў індыйскай ку́хні; *He has travelled extensively.* Ён шмат падарожнічаў.

**extent** [ɪkˈstent] *n.* **(of) 1.** паме́р; працяг, працягласць **2.** ступе́нь, ме́ра ♦ **to some/a certain/a**

**large extent** у некато́рай/пэ́ўнай/зна́чнай ступе́ні; **to what extent?** нако́лькі?

**exterior**[1] [ɪkˈstɪəriə] *n.* **1.** во́нкавы, зне́шні, знадво́рны вы́гляд **2.** уя́ўныя паво́дзіны

**exterior**[2] [ɪkˈstɪəriə] *adj.* во́нкавы; зне́шні

**exterminate** [ɪkˈstɜːmɪneɪt] *v.* вынішча́ць, по́ўнасцю знішча́ць (*людзей, жывёлу*), забіва́ць (*пагалоўна*)

**extermination** [ɪkˌstɜːmɪˈneɪʃn] *n.* вынішчэ́нне, знішчэ́нне

**external** [ɪkˈstɜːnl] *adj.* **1.** во́нкавы, зне́шні; **for external use only** *med.* то́лькі для во́нкавага ўжыва́ння **2.** павярхо́ўны **3.** заме́жны; **external trade** заме́жны га́ндаль; **external affairs** заме́жныя спра́вы

**externally** [ɪkˈstɜːnəli] *adv.* **1.** во́нкава, з вы́гляду **2.** для фо́рмы, не па су́тнасці

**extinct** [ɪkˈstɪŋkt] *adj.* **1.** вы́мерлы; неісну́ючы (*пра жывёл, расліны, мовы і да т.п.*) **2.** пату́хлы (*пра вулкан*)

**extinction** [ɪkˈstɪŋkʃn] *n.* **1.** вымíра́нне, знікне́нне **2.** затуха́нне; **on the verge/edge/brink of extinction** на мяжы́ знікне́ння

**extinguish** [ɪksˈtɪŋgwɪʃ] *v.* **1.** тушы́ць, гасíць (*таксама перан.*) **2.** знішча́ць; *The news extinguished all hope for peace.* Гэта навіна знішчыла ўсе надзеі на мір.

**extinguisher** [ɪksˈtɪŋgwɪʃə] *n.* (*таксама* **fire extinguisher**) вогнетушы́цель

**extol** [ɪkˈstəʊl] *v. fml* усхваля́ць (*вельмі, залішне*); расхва́льваць

**extort** [ɪkˈstɔːt] *v.* **(from)** вымага́ць (*што-н. сілай, пагрозамі*)

**extortion** [ɪkˈstɔːʃn] *n.* вымага́нне (*сілай, пагрозамі*); ха́барніцтва

**extra**[1] [ˈekstrə] *n.* дадатко́вая пла́та; дадатко́вая рэч

**extra**[2] [ˈekstrə] *adj.* дадатко́вы; **extra time** дадатко́вы час (*у спорце*); *I need some extra money.* Мне патрэбны дадатковыя грошы.

**extra**[3] [ˈekstrə] *adv.* асаблíва; дадатко́ва, у дада́так; **pay/cost extra** плацíць/каштава́ць дадатко́ва; *I have to be extra careful.* Я павінен быць асабліва ўважлівым.

**extract**[1] [ˈekstrækt] *n.* **1.** **(from)** уры́вак; вы́трымка (*з кнігі, твора і да т.п.*) **2.** **(of)** экстра́кт, вы́цяжка

**extract**[2] [ɪkˈstrækt] *v.* **(from)** выця́гваць; здабыва́ць; **extract a tooth** *med.* вырыва́ць зуб; **extract coal** здабыва́ць ву́галь

**extraction** [ɪkˈstrækʃn] *n.* **1.** **(from)** выця́гванне; здабы́ча, здабыва́нне; **oil/gold/uranium extraction** здабы́ча на́фты/зо́лата/ура́ну **2.** *fml* пахо́джанне

**extradite** [ˈekstrədaɪt] *v. fml* **(from, to)** выдава́ць ула́дам íншай краíны чалаве́ка, які́ абвінава́чваецца ў злачы́нстве

**extradition** [ˌekstrəˈdɪʃn] *n.* экстрады́цыя

**extraordinary** [ɪkˈstrɔːdnri] *adj.* **1.** незвыча́йны; дзíўны **2.** надзвыча́йны; **a city of extraordinary beauty** надзвы́чай прыго́жы го́рад; **extraordinary measures** надзвыча́йныя ме́ры; **an envoy extraordinary** надзвыча́йны і паўнамо́цны пасо́л, пасла́ннік

**extraordinarily** [ɪkˈstrɔːdnrəli] *adv.* асаблíва, надзвыча́йна

**extravagance** [ɪkˈstrævəgəns] *n.* **1.** марнатра́ўства **2.** дзіва́цтва **3.** экстравага́нтнасць

**extravagant** [ɪkˈstrævəgənt] *adj.* **1.** марнатра́ўны **2.** неразу́мны; непракты́чны; нерэа́льны **3.** экстравага́нтны

**extravaganza** [ɪkˌstrævəˈgænzə] *n.* фее́рыя

**extreme**[1] [ɪkˈstriːm] *n.* **1.** кра́йнасць **2.** *звыч. pl.* **extremes** процілéгласці ♦ **go from one extreme to the other** кíдацца з адно́й кра́йнасці ў другу́ю; **in the extreme** *fml* ве́льмі, надзвыча́йна

**extreme**[2] [ɪkˈstriːm] *adj.* кра́йні; экстрэма́льны; радыка́льны

**extremely** [ɪkˈstriːmli] *adv.* ве́льмі, надзвыча́йна, надзвы́чай; *Was it difficult? – Extremely.* Ці цяжка гэта было? – Надзвычайна.

**extremism** [ɪkˈstriːmɪzəm] *n.* экстрэмíзм

**extremist** [ɪkˈstriːmɪst] *n.* экстрэмíст; экстрэмíстка; **the left-wing/right-wing extremist** ле́вы/пра́вы экстрэмíст

**extrinsic** [eksˈtrɪnsɪk] *adj. fml* неўласцíвы; во́нкавы

**extrovert** [ˈekstrəvɜːt] *n.* экстраве́рт

**exuberance** [ɪgˈzjuːbərəns] *n.* **1.** бу́рная ра́дасць, нястры́мная весяло́сць **2.** бага́цце, пы́шнасць, буя́нне (*раслін*)

**exuberant** [ɪgˈzjuːbərənt] *adj.* ве́льмі энергíчны, жва́вы, вясёлы

**exult** [ɪgˈzʌlt] *v. fml* **(at/in)** ра́давацца (*поспеху, перамозе*), це́шыцца (*поспехам, перамогай*); быць ве́льмі ўзра́даваным і шчаслíвым; *They exulted at their victory.* Яны былі вельмі ўзрадаваныя сваёй перамогай.

**exultant** [ɪgˈzʌltənt] *adj. fml* **(at)** ве́льмі ўзра́даваны, шчаслíвы

**exultation** [ˌegzʌlˈteɪʃn] *n. fml* вялíкая ра́дасць; экзальта́цыя

**eye**[1] [aɪ] *n.* **1.** во́ка; **close/open one's eyes** заплю́шчваць/расплю́шчваць во́чы **2.** зрок; *A surgeon needs a good eye.* Хірургу патрэбен добры зрок. **3.** ба́чанне; по́гляд; **to my eye** на мой по́гляд **4.** ву́шка (*іголкі*) **5.** *tech., bot.* во́чка **6.** пятля́ ў вяза́нні **7.** цэнтр урага́ну, тарна́-

да і да т.п. ♦ **a black eye** сіня́к; **the evil eye** ліхі́я/благі́я во́чы, пага́нае во́ка; **with the naked eye** про́стым во́кам; **an eye for an eye** во́ка за во́ка; **eye to eye** во́ка ў во́ка/во́чы ў во́чы; **in the eyes of smb.** у вача́х каго́-н.; на ду́мку каго́-н.; **keep an eye on smb./smth.** назіра́ць за кім-н./чым-н.; **see eye to eye with smb.** быць адно́й ду́мкі з кім-н., згаджа́цца з кім-н.; **turn a blind eye to smth.** заплю́шчваць во́чы на што-н., не звярта́ць ува́гі на што-н.

**eye²** [aɪ] *v.* глядзе́ць, назіра́ць; *They eyed us with alarm.* Яны глядзелі на нас з трывогаю.

**eyeball¹** [ˈaɪbɔːl] *n.* **1.** *anat.* во́чны я́блык ♦ **eyeball to eyeball** *infml* твар у твар; **be up to one's eyeballs in work/debt** быць па ву́шы ў рабо́це/даўга́х

**eyeball²** [ˈaɪbɔːl] *v. infml* утаро́піцца; глядзе́ць пі́льна

**eyebrow** [ˈaɪbraʊ] *n.* брыво́; **raise one's eyebrows** уздыма́ць бро́вы (*ад здзіўлення або незадавальнення*)

**eyeglass** [ˈaɪglaːs] *n.* **1.** лі́нза; мано́кль **2.** *pl.* **eyeglasses** *AmE* акуля́ры

**eyelash** [ˈaɪlæʃ] *n.* ве́йка

**eyelid** [ˈaɪlɪd] *n.* паве́ка

**eyesight** [ˈaɪsaɪt] *n.* зрок; **good/keen eyesight** до́бры/во́стры зрок; **bad/poor eyesight** дрэ́нны зрок

**eyesore** [ˈaɪsɔː] *n.* бры́дкасць; брыдо́та; недарэ́чнасць

**eyewitness** [ˈaɪwɪtnɪs] *n.* **(of, to)** све́дка, відаво́чца

## Ff

**F, f** [ef] *n. 6-я літара англійскага алфавіта*

**F¹** [ef] *n. mus.* но́та «фа»

**F²** [ef] (*скар. ад* **Fahrenheit**) Фарэнге́йт; *Water boils at 212°F.* Вада закіпае пры 212° па Фарэнгейту.

**FA** [ˌefˈeɪ] *n.* **the FA** (*скар. ад* **Football Association**) Асацыя́цыя футбо́лу (*у Англіі і Уэльсе*)

**fab** [fæb] *adj. BrE, infml* цудо́ўны; ашаламля́льны, кла́сны; ка́зачны

**fable** [ˈfeɪbl] *n.* **1.** ба́йка; **Aesop's fables** ба́йкі Эзо́па **2.** не́быль, небылі́ца; ка́зка **3.** леге́нда, міф

**fabled** [ˈfeɪbld] *adj. lit.* леге́нда́рны; міфі́чны

**fabric** [ˈfæbrɪk] *n.* **1.** ткані́на, матэ́рыя; **woolen/silk/cotton fabrics** шарсцяны́я/шаўко́выя/бавaўня́ныя ткані́ны **2.** структу́ра, будо́ва (*таксама перан.*); **the fabric of society** структу́ра грама́дства

**fabricate** [ˈfæbrɪkeɪt] *v.* **1.** выдумля́ць, выду́мваць **2.** фабрыкава́ць, падро́бліваць, падрабля́ць; *The evidence was totally fabricated.* Паказанні сведак былі поўнасцю сфабрыкаваны. **3.** вырабля́ць

**fabrication** [ˌfæbrɪˈkeɪʃn] *n.* **1.** вы́думка; *His story was a complete fabrication from start to finish.* Яго гісторыя была абсалютнай выдумкай з пачатку і да канца. **2.** фабрыка́цыя, падро́бка

**fabulous** [ˈfæbjələs] *adj.* **1.** *infml* выда́тны, цудо́ўны; *We had a fabulous holiday*. Мы выдатна адпачылі. **2.** *fml* нечува́ны; невераго́дны; **fabulous wealth/riches** ка́зачнае бага́цце **3.** міфі́чны; ка́зачны; **fabulous beasts** міфі́чныя істо́ты

**fabulously** [ˈfæbjələsli] *adv. fml* надзвыча́йна (*багаты, прыгожы і г.д.*)

**facade** [fəˈsɑːd] *n.* **1.** фаса́д (*будынка*) **2.** зне́шнасць; во́нкавае аблі́чча; **a facade of indifference** напускно́е раўнаду́шша

**face¹** [feɪs] *n.* **1.** твар; аблі́чча (*таксама перан.*); *He pulled a long face.* Яго твар зрабіўся сумным. **2.** вы́раз тва́ру **: a sad/happy/smiling face** су́мны/ра́дасны/усме́шлівы твар; *His face fell when he read the telegram.* Яго твар пахмурнеў, калі ён прачытаў тэлеграму. **3.** цыферблáт **4.** бок, паве́рхня (*чаго-н.*); **the north face of the mountain** паўно́чны бок гары́ **5.** хара́ктар, аспе́кт (*чаго-н.*); **the unacceptable face of drinking** непрыма́льны хара́ктар алкагалі́зму ♦ **face to face** тва́рам у твар; **face-to-face talks** прамы́я перамо́вы; **in the face of** насу́перак, нягле́дзячы на; **on the face of it** на пе́ршы по́гляд, зне́шне; **to smb.'s face** адкры́та, у твар; **have the face to do smth.** *BrE, infml* мець наха́бства зрабі́ць не́шта зага́ннае; **lose face** упа́сці ў чы́іх-н. вача́х; **make/pull faces at smb.** грыма́снічаць; **save face** зберагчы́ рэпута́цыю; **wipe off the face of the earth** сце́рці з тва́ру зямлі́

**face²** [feɪs] *v.* **1.** быць зве́рнутым тва́рам/пе́рам да чаго́-н.; *The windows face south.* Вокны глядзяць/выходзяць на поўдзень. **2.** сустрака́ць сме́ла/упэ́ўнена (*што-н./каго-н.*) **3.** чака́ць, пагража́ць; *The country faces a serious crisis.* Краіне пагражае сур'ёзны крызіс.
**face up** [ˌfeɪsˈʌp] *phr.v.* **(to)** праяўля́ць (*мужнасць, адказнасць і да т.п.*); *He faced up to the difficulties.* Ён не спужаўся цяжкасцей; *He faced up to his responsibilities.* Ён не ўхіляўся ад адказнасці.

**face cream** [ˈfeɪskriːm] *n.* крэм для тва́ру

**faceless** [ˈfeɪsləs] *adj.* **1.** безаблі́чны; **faceless bureaucrats** безаблі́чныя бюракра́ты **2.** анані́мны

**facelift** [ˈfeɪslɪft] *n.* **1.** падця́жка ску́ры на тва́ры **2.** касметы́чны рамо́нт (*пакоя, будынка*)

**face pack** [ˈfeɪspæk] *n. BrE* ма́ска (*касметычная, якая накладваецца на скуру твару*)

**face powder** [ˈfeɪsˌpaʊdə] *n.* пу́дра

**face-saving** [ˈfeɪsˌseɪvɪŋ] *adj.* які́ ма́е мэ́таю зберагчы́ рэпута́цыю, прэсты́ж; **a face-saving compromise** кампра́міс з мэ́таю зберагчы́ прэсты́ж

**facet** [ˈfæsɪt] *n.* **1.** грань **2.** аспе́кт

**facetious** [fəˈsiːʃəs] *adj.* жартаўлі́вы, несур'ёзны; **a facetious comment** жартаўлі́вая заўва́га

**face value** [ˌfeɪsˈvæljuː] *n.* наміна́льная ва́ртасць ♦ **take smth. at face value** прыма́ць што-н. на ве́ру, прыма́ць за чы́стую мане́ту; *I took his words at face value.* Я прыняў яго словы за чыстую манету.

**facial¹** [ˈfeɪʃl] *n.* касметы́чны до́гляд тва́ру

**facial²** [ˈfeɪʃl] *adj.* (*які мае дачыненне да твару*); **a facial expression** вы́раз тва́ру; **a facial massage** маса́ж тва́ру

**facile** [ˈfæsaɪl] *adj.* лёгкі; павярхо́ўны; беззмясто́ўны; **a facile remark/generalisation** павярхо́ўная заўва́га/павярхо́ўнае абагульне́нне

**facilitate** [fəˈsɪlɪteɪt] *v.* аблягча́ць, палягча́ць; садзе́йнічаць, дапамага́ць; *It would facilitate matters.* Гэта паспрыя́ла б справе; *Computers are used to facilitate language learning.* Камп'ютары выкарыстоўваюцца, каб палегчыць вывучэнне моў.

**facility** [fəˈsɪləti] *n.* **1.** *pl.* **facilities**; абсталява́нне; збудава́нні; выго́ды; спрыя́льныя ўмо́вы; **sport facilities** спарты́ўныя збудава́нні; **leisure facilities** умо́вы для адпачы́нку **2. (for)** здо́льнасць, здатнасць; **her facility for languages** яе́ здо́льнасць да моў **3.** асо́бная магчы́масць (*прылады механізма, абслугоўвання*); **a facility for spelling checking** аўтаматы́чны карэ́ктар **4.** памяшка́нне, ме́сца (*пэўнага прызначэння*)

**facing** [ˈfeɪsɪŋ] *n.* **1.** абліцо́ўка **2.** падшы́ўка; падбі́ўка

**facsimile** [fækˈsɪməli] *n.* **1. (of)** факсі́міле; **a facsimile edition of the manuscript** факсі́мільнае вы́да́нне ру́капісу **2.** *fml* = **fax**

**fact** [fækt] *n.* **1.** факт; **hard facts** неабве́ржныя, бясспрэ́чныя фа́кты; **stick to the facts** прытры́млівацца фа́ктаў **2.** і́сціна, пра́ўда; сапра́ўднасць; *I know for a fact that she is not involved in the matter.* Я ўпэўнены, што яна не замешана ў гэтай справе. ♦ **the fact (of the matter) is…** на са́май спра́ве…; **facts speak for themselves** фа́кты гаво́раць са́мі за сябе́; *Is that a fact? infml* Няўжо так?

**fact-finding** [ˈfæktˌfaɪndɪŋ] *adj.* які́ збіра́е інфарма́цыю адно́сна канкрэ́тнай сітуа́цыі; **a fact-finding mission/visit** мі́сія/візі́т з мэ́тай збо́ру інфарма́цыі

**faction¹** [ˈfækʃn] *n.* **1.** фра́кцыя; групо́ўка **2.** рознагало́ссе; разыхо́джанне; **a party divided by faction** па́ртыя, яку́ю падзяля́юць разыхо́джанні

**faction²** [ˈfækʃn] *n.* літарату́рны або́ кінематаграфі́чны жанр, у які́м рэ́альныя здарэ́нні слу́жаць асно́вай для маста́цкага тво́ра

**factional** [ˈfækʃənl] *adj.* фракцы́йны; раско́льніцкі

**factitious** [fækˈtɪʃəs] *adj. fml* шту́чны, наўмы́сны

**factor** [ˈfæktə] *n.* **1. (in)** фа́ктар **2.** *math.* мно́жнік

**factory** [ˈfæktəri] *n.* фа́брыка, заво́д; *He works in a car factory.* Ён працуе на аўтазаводзе.

**factory farm** [ˈfæktəriˌfɑːm] *n.* вялі́кая спецыялізава́ная гаспада́рка (*птушкафабрыка, конны завод і да т.п.*)

**factory floor** [ˌfæktəriˈflɔː] *n.* та́я ча́стка прадпрые́мства, дзе непасрэ́дна выпрабля́юць праду́кцыю

**factory ship** [ˈfæktəriˌʃɪp] *n.* плыву́чы рыбазаво́д

**factual** [ˈfæktʃuəl] *adj.* факты́чны, сапра́ўдны

**faculty** [ˈfækəlti] *n.* **1.** *звыч. pl.* **(of, for)** здо́льнасць; **be in possession of one's faculties** быць пры сваі́м ро́зуме **2.** факульте́т **3.** *AmE* прафе́сарска-выкла́дчыцкі склад універсітэ́та або́ кале́джа

**fad** [fæd] *n. infml* капры́з, пры́хамаць, дзіва́цтва

**fade** [feɪd] *v.* **1.** вя́нуць **2.** выцвіта́ць, бля́кнуць, ліня́ць

**fade away** [ˌfeɪdəˈweɪ] *phr.v.* зніка́ць, заціха́ць

**faeces** [ˈfiːsiːz] *n. pl. fml* фека́ліі

**fag¹** [fæg] *n. BrE, infml* ну́дная, ця́жкая пра́ца

**fag²** [fæg] *n. BrE, infml* цыгарэ́та

**fag³** [fæg] *n. AmE, slang* гей, гомасексуалі́ст

**fag end** [ˌfægˈend] *n. BrE, infml* недаку́рак, аку́рак

**Fahrenheit** [ˈfærənhaɪt] *n.* шкала́ Фарэнге́йта (*па якой вада закіпае пры 212°*)

**faience** [feɪˈɑːns] *n.* фая́нс

**fail¹** [feɪl] *n.* права́л на экза́мене ♦ **without fail** абавязко́ва, безумо́ўна

**fail²** [feɪl] *v.* **1.** пацярпе́ць няўда́чу, не здо́лець; *We failed to arrive on time.* Мы не здолелі прыехаць у час. **2.** правалі́ць экза́мен; правалі́цца на экза́мене **3.** псава́цца; *The engine*

*failed.* Матор сапсаваўся. **4.** слабе́ць; *His sight is failing.* У яго слабее зрок.

**failing** [ˈfeɪlɪŋ] *n.* недахо́п, адмо́ўная ры́са, хі́ба

**failure** [ˈfeɪljə] *n.* **1.** няўда́ча, права́л; *The film was a failure.* Фільм праваліўся. **2.** няўда́чнік; няўда́чніца **3.** ава́рыя, пашко́джанне; пера-бо́й; **crop/harvest failure** неўраджа́й, няўро́д; **heart failure** *med.* сардэ́чная недастатко́васць **4.** банкру́цтва

**faint**[1] [feɪnt] *adj.* **1.** сла́бы, аслабе́лы **2.** сла́бы, невыра́зны **3.** ве́льмі нязна́чны ♦ **not have the faintest idea about smth.** не мець ніякага ўяўле́ння аб чым-н.

**faint**[2] [feɪnt] *v.* млець, тра́ціць прыто́мнасць

**faintly** [ˈfeɪntli] *adv.* сла́ба; ле́дзьве

**fair**[1] [feə] *n.* **1.** кірма́ш **2.** выста́ва, вы́стаўка

**fair**[2] [feə] *adj.* **1.** сумле́нны, справядлі́вы **2.** не-благі́, нядрэ́нны **3.** я́сны (*пра надвор'е*) **4.** све́т-лы, бяля́вы **5.** *lit.* прыго́жы ♦ **by fair means or foul** любы́мі сро́дкамі, усі́мі пра́ўдамі і няпра́ўдамі

**fair**[3] [feə] *adv.* сумле́нна, справядлі́ва ♦ **fair and square** па ўсіх пра́вілах

**fair copy** [ˌfeəˈkɒpi] *n. BrE* чыставі́к

**fairground** [ˈfeəgraʊnd] *n.* ме́сца, дзе адбыва́-ецца кірма́ш

**fair-headed** [ˌfeəˈhedɪd] *adj.* светлавало́сы

**fair-minded** [ˌfeəˈmaɪndɪd] *adj.* справядлі́вы; непрадузя́ты

**fairly** [ˈfeəli] *adv.* **1.** справядлі́ва, сумле́нна **2.** даво́лі, дастатко́ва; *He is still fairly young.* Ён яшчэ даволі малады.

**fair play** [ˌfeəˈpleɪ] *n.* **1.** гульня́ па пра́вілах **2.** справядлі́васць

**fairy** [ˈfeəri] *n.* фе́я

**fairy tale** [ˈfeəriˌteɪl] *n.* ка́зка

**fait accompli** [ˌfeɪtəˈkɒmpliː] *n. франц.* здзе́й-снены факт

**faith** [feɪθ] *n.* **1.** ве́ра, даве́р **2.** ве́ра, рэлі́гія ♦ **in good faith** чэ́сна, добрасумле́нна; **in bad faith** верало́мна

**faithful** [ˈfeɪθfəl] *adj.* **1. (to)** ве́рны; адда́ны; **a faithful friend/husband** ве́рны ся́бра/муж **2.** дакла́дны; праўдзі́вы; **a faithful translation** дакла́дны перакла́д; **a faithful account** праў-дзі́вае паведамле́нне

**faithfully** [ˈfeɪθfəli] *adv.* **1.** ве́рна; добрасумле́н-на **2.** дакла́дна; **Yours faithfully** *BrE* (*у канцы ліста*) з пава́гай

**faithfulness** [ˈfeɪθfəlnəs] *n.* ве́рнасць; адда́насць

**faithless** [ˈfeɪθləs] *adj. fml* **1.** няве́рны; здра́длі-вы; ненадзе́йны **2.** няве́руючы

**fake**[1] [feɪk] *n.* **1.** падро́бка, фальшы́ўка **2.** пры-тво́ршчык; прытво́ршчыца

**fake**[2] [feɪk] *adj.* падро́блены, фальшы́вы, сфаб-рыкава́ны

**fake**[3] [feɪk] *v.* **1.** падма́нваць, ашу́кваць, уво́-дзіць у зман; падрабля́ць **2.** прыкі́двацца

**fakir** [ˈfeɪkɪə] *n.* факі́р

**falcon** [ˈfɔːlkən] *n. zool.* со́кал

**fall**[1] [fɔːl] *n.* **1.** падзе́нне; зніжэ́нне **2.** *AmE* во́-сень

**fall**[2] [fɔːl] **(fell, fallen)** *v.* **1.** па́даць, спада́ць, валі́цца; *He fell off the ladder.* Ён зваліўся з драбін. **2.** загі́нуць, па́сці; *The Government has fallen.* Урад паў. **3.** прыпада́ць, выпада́ць; *Christmas falls on Sunday this year.* Божае на-раджэнне прыпадае ў гэтым годзе на нядзе-лю. **4.** надыхо́дзіць; насо́ўвацца; *Night fell quickly.* Ноч надышла хутка; **fall asleep** засну́ць; **fall ill** захварэ́ць; **fall in love** зака-ха́цца, палюбі́ць

**fall apart** [ˌfɔːləˈpɑːt] *phr.v.* распада́цца; *Their marriage seems to be falling apart.* Іх шлюб, здаецца, распадаецца.

**fall behind** [ˌfɔːlbɪˈhaɪnd] *phr.v.* **1.** адстава́ць **2.** спазня́цца, затры́млівацца; *If you fall be-hind with the rent you'll be evicted.* Калі вы спозніцеся з аплатай, вас выселяць.

**fall down** [ˌfɔːlˈdaʊn] *phr.v.* па́даць; *The child fell down and hurt his knee.* Дзіця павалілася і выцяла калена.

**fall in** [ˌfɔːlˈɪn] *phr.v.* правалі́цца, абвалі́цца; *The roof fell in.* Дах абваліўся.

**fall out** [ˌfɔːlˈaʊt] *phr.v.* **1.** выпада́ць; *My hair is beginning to fall out.* У мяне пачынаюць выпадаць валасы. **2.** свары́цца; *The two girls fell out.* Гэтыя дзве дзяўчынкі пасварыліся. **3.** *mil.* разыхо́дзіцца; *Fall out!* Разысціся!

**fallacious** [fəˈleɪʃəs] *n. fml* памылко́вы

**fallacy** [ˈfæləsi] *n.* **1.** памылко́вая ду́мка, памыл-ко́вы по́гляд **2.** *fml* няпра́вільны аргуме́нт; беспадстаў́ны до́каз

**fallen** [ˈfɔːlən] *p.p.* → **fall**

**fall guy** [ˈfɔːlˌgaɪ] *n.* казёл адпушчэ́ння

**fallout** [ˈfɔːlaʊt] *n.* **1.** радыеакты́ўныя апа́дкі **2.** адмо́ўныя вы́нікі (*здарэння або сітуацыі*)

**fallow** [ˈfæləʊ] *adj. agr.* пад папа́рам, у папа́ры (*пра зямлю*)

**fallow deer** [ˈfæləʊˌdɪə] *n. zool.* лань

**falls** [fɔːlz] *n. pl.* вадаспа́д; **Niagara Falls** Ніяга́рскі вадаспа́д

**false** [fɔːls] *adj.* **1.** ілжы́вы, памылко́вы; **a false statement** ілжы́вая зая́ва **2.** несапра́ўдны, фальшы́вы; **a false passport** фальшы́вы па́ш-парт; **a false friend** няве́рны ся́бра **3.** штў́ч-ны; **false limbs** пратэ́зы

**falsehood** [ˈfɔːlshʊd] *n.* **1.** мана́, хлусня́ **2.** хлусл́івасць
**false start** [ˌfɔːlsˈstɑːt] *n.* **1.** *sport* фальста́рт **2.** няўда́лая спро́ба, няўда́лы піача́так
**false teeth** [ˌfɔːlsˈtiːθ] *n. pl.* зубны́ пратэ́з
**falsetto** [fɔːlˈsetəʊ] *n. mus*. фальцэ́т
**falsify** [ˈfɔːlsɪfaɪ] *v.* фальсіфікава́ць, падрабля́ць; скажа́ць
**falter** [ˈfɔːltə] *v.* **1.** спатыка́цца; запіна́цца **2.** хіста́цца, вага́цца
**fame** [feɪm] *n.* сла́ва, вядо́масць; **achieve/win instant fame** здабы́ць ху́ткую сла́ву
**famed** [feɪmd] *adj.* **(for)** вядо́мы, славу́ты, слы́нны
**familiar** [fəˈmɪliə] *adj.* **1. (to)** знаёмы, вядо́мы, звы́чны; *These facts are familiar to everybody.* Гэтыя факты вядомыя ўсім. **2. (with)** знаёмы, дасве́дчаны; *I'm not familiar with his latest books.* Я не знаёмы з яго апошнімі кнігамі. **3.** сябро́ўскі; фаміль́ярны
**familiarity** [fəˌmɪliˈærəti] *n.* **1. (with)** до́брыя ве́ды (*чаго-н.*), дасве́дчанасць (*у чым-н.*) **2.** прастата́, во́льнасць (*у паводзінах*) **3.** *pl.* **familiarities** *fml* фаміль́ярнасць; фаміль́ярныя паво́дзіны
**family** [ˈfæməli] *n.* **1.** сям'я́ **2.** дзе́ці; *Have you any family?* У вас ёсць дзеці?; **start a family** заво́дзіць дзяце́й ♦ **run in the family** быць ча́стай з'явай у пэ́ўнай сям'і; *Heart disease runs in the family.* Сардэчнае захворванне – характэ́рная з'ява ў гэтай сям'і.
**family doctor** [ˌfæməliˈdɒktə] *n. infml* ура́ч агу́льнай пра́ктыкі; сямéйны до́ктар
**family name** [ˈfæməliˌneɪm] *n.* про́звішча
**family planning** [ˌfæməliˈplænɪŋ] *n.* кантро́ль за дзетанараджэ́ннем (*шляхам выкарыстання процізачаткавых сродкаў*)
**family tree** [ˌfæməliˈtriː] *n.* радаво́д, генеалагі́чнае дрэ́ва
**famine** [ˈfæmɪn] *n.* го́лад (*у выніку неўраджаю, засухі, вайны*)
**famous** [ˈfeɪməs] *adj.* **(for)** вядо́мы, славу́ты, слы́нны
**fan**[1] [fæn] *n.* **1.** вентыля́тар **2.** ве́ер
**fan**[2] [fæn] *n.* энтузія́ст; ама́тар; бале́льшчык, фана́т; **a fan club** фан-клуб, фэн-клуб; клуб фа́наў/фана́таў
**fan**[3] [fæn] *v.* **1.** абма́хваць **2.** раздзьму́хваць
**fanatic** [fəˈnætɪk] *n.* фана́тык; фанаты́чка
**fanatical** [fəˈnætɪkl] *adj.* фанаты́чны
**fancier** [ˈfænsiə] *n.* зна́ўца; ама́тар (*асабліва які разводзіць каго-н. або што-н.*); **a pigeon/rose fancier** той, хто разво́дзіць галубо́ў/ру́жы і да т.п.
**fanciful** [ˈfænsɪfl] *adj.* **1.** фантасты́чны, нерэа́льны **2.** незвыча́йны, дзіва́цкі **3.** мудрагéлісты, вы́чварны
**fancy**[1] [ˈfænsi] *n.* **1.** фанта́зія, уяўле́нне **2.** капры́з **3.** (*раптоўнае або неразумнае*) захапле́нне (*кім-н./чым-н.*); схі́льнасць (*да каго-н./ чаго-н.*); **take a fancy to smb./smth.** захапі́цца кім-н./чым-н.
**fancy**[2] [ˈfænsi] *adj.* мудрагéлісты, вы́чварны
**fancy**[3] [ˈfænsi] *v.* **1.** (за)хаце́ць; *I fancy a cup of tea.* Я выпіў бы зараз кубачак чаю. **2.** уяўля́ць, ду́маць; *I fancy we've met before.* Здаецца, мы ўжо сустракаліся; *Fancy that!* Толькі ўяві сабе!
**fancy dress** [ˌfænsiˈdres] *n. BrE* маскара́дны ўбо́р
**fang** [fæŋ] *n.* **1.** клык **2.** ядаві́ты зуб (*змяі*)
**fantastic** [fænˈtæstɪk] *adj.* **1.** фантасты́чны; дзі́ўны **2.** *infml* выда́тны, цудо́ўны
**fantasy** [ˈfæntəsi] *n.* фанта́зія, уяўле́нне
**fanzine** [ˈfænziːn] *n.* часо́піс для фана́таў
**FAQ** [ˌefeɪˈkjuː] (*пісьмовае скар. ад* **frequently asked questions**) *comput*. ча́стыя пыта́нні
**faquir** [ˈfeɪkɪə] = **fakir**
**far**[1] [fɑː] *adj.* **(farther/further, farthest/furthest)** далёкі, адда́лены ♦ **a far cry from smth.** ве́льмі непадо́бны да чаго́-н.
**far**[2] [fɑː] *adv.* **(farther/further, farthest/furthest)** **1.** далёка **2.** зна́чна, шмат; **far better/worse** зна́чна лепш/горш; **as far as** да (*якога-н. месца*); *We went as far as the bridge.* Мы дайшлі да моста. ♦ **as far as I know/can remember** нако́лькі мне вядо́ма/я па́мятаю; **as far as I am concerned** што даты́чыцца мяне́; **by far** зна́чна, намно́га, нашма́т; бясспрэ́чна, безумо́ўна; *She is by far the best tennis player.* Яна, безумоўна, лепшая тэнісістка; **far and wide/far and near** усю́ды; **far from it** зусі́м не; наадваро́т; **so far** да гэ́тага ча́су, дагэ́туль; *So far the weather has been fine.* Дагэтуль надвор'е было цудоўнае.
**faraway** [ˈfɑːrəweɪ] *adj.* далёкі, адда́лены; **a faraway look** адсу́тны по́зірк
**farce** [fɑːs] *n.* фарс
**fare**[1] [feə] *n.* **1.** кошт прае́зду/біле́та; кошт прае́зду аўто́бусам/цягніко́м/на таксі́; *What's the fare?* Колькі каштуе праезд?; **a fare dodger** *infml* безбіле́тны пасажы́р, «за́яц» **2.** пасажы́р (*у таксі*) **3.** *fml* стра́ва, е́жа; **good/simple fare** до́брая/про́стая е́жа
**fare**[2] [feə] *v.* быць, жыць; **fare well/badly** мець по́спех/не мець по́спеху; *It fared well with him*. Усё яму спрыяла.
**Far East** [ˌfɑːrˈiːst] *n.* **the Far East** Далёкі Усхо́д

**farewell**[1] [ˌfeəˈwel] *n. fml* развіта́нне
**farewell**[2] [ˌfeəˈwel] *adj.* развіта́льны; **a farewell party** развіта́льная вечарына/вечарынка
**farewell**[3] [ˌfeəˈwel] *interj. fml* бывай(це)!
**far-fetched** [ˌfɑːˈfetʃt] *adj.* ненатура́льны, штучны; нацягнуты; **far-fetched comparison** нацягнутае параўна́нне; **a far-fetched story** небыль; выдумка
**farm**[1] [fɑːm] *n.* ферма, гаспада́рка; **a collective farm** калгас; **a state farm** саўгас; **a pig/dairy farm** свінаферма/малочная ферма
**farm**[2] [fɑːm] *v.* займацца сельскай гаспадаркай
**farmer** [ˈfɑːmə] *n.* фермер; селянін
**farmhand** [ˈfɑːmhænd] *n.* сельскагаспада́рчы рабочы
**farmhouse** [ˈfɑːmhaʊs] *n.* дом/хата фермера
**farming** [ˈfɑːmɪŋ] *n.* сельская гаспадарка, земляробства; жывёлагадоўля
**far-off** [ˈfɑːrɒf] *adj.* далёкі, аддалены (*пра месца або час*)
**far-out** [ˈfɑːraʊt] *adj.* вельмі дзіўны, незвычайны
**far-reaching** [ˌfɑːˈriːtʃɪŋ] *adj.* важны, сур'ёзны; які мае сур'ёзныя наступствы/вынікі ў далейшым; **far-reaching consequences** сур'ёзныя наступствы; **far-reaching reforms** важныя рэформы
**farrow** [ˈfærəʊ] *v. agr.* парасіцца
**Farsi** [ˈfɑːsiː] *n.* фарсі (*сучасная персідская мова, якая ўжываецца ў Іране*)
**far-sighted** [ˌfɑːˈsaɪtɪd] *adj.* **1.** прадбачлівы, празорлівы **2.** дальназоркі
**fart**[1] [fɑːt] *n. infml* **1.** пярдзёж **2. : an old fart** *derog.* стары грыб; старая порхаўка
**fart**[2] [fɑːt] *v. infml* пярдзець
**farther**[1] [ˈfɑːðə] *adj.* (*выш. ст. ад* **far**[1]) больш далёкі, далейшы
**farther**[2] [ˈfɑːðə] *adv.* (*выш. ст. ад* **far**[2]) далей
**farthest**[1] [ˈfɑːðɪst] *adj.* (*найвыш. ст. ад* **far**[1]) самы далёкі
**farthest**[2] [ˈfɑːðɪst] *adv.* (*найвыш. ст. ад* **far**[2]) найдалей
**fascinate** [ˈfæsɪneɪt] *v.* чараваць, зачароўваць, прыводзіць у захапленне
**fascinating** [ˈfæsɪneɪtɪŋ] *adj.* чароўны, захапляльны
**fascination** [ˌfæsɪˈneɪʃn] *n.* зачараванне, чароўнасць
**fascism** [ˈfæʃɪzəm] *n.* фашызм
**fascist**[1] [ˈfæʃɪst] *n.* фашыст; фашыстка
**fascist**[2] [ˈfæʃɪst] *adj.* фашысцкі
**fashion** [ˈfæʃn] *n.* **1.** манера, спосаб, лад **2.** мода, фасон; **in/out of fashion** у модзе, модны/ немодны ♦ **after a fashion** у пэўнай ступені, сяк-так; **after the fashion of smb./smth.** *fml* у стылі каго-н. або чаго-н.
**fashionable** [ˈfæʃnəbl] *adj.* модны
**fast**[1] [fɑːst] *n. relig.* пост
**fast**[2] [fɑːst] *v.* пасціцца
**fast**[3] [fɑːst] *adj.* **1.** хуткі, шпаркі; **a fast train** хуткі цягнік; **2. : be fast** спяшацца (*пра гадзіннік*); *My watch is ten minutes fast.* Мой гадзіннік спяшаецца на 10 хвілін. **3.** трывалы, моцны; **fast colours/dyes** трывалыя фарбы; **hard and fast rules** цвёрдыя правілы
**fast**[4] [fɑːst] *adv.* **1.** хутка, шпарка **2.** моцна, трывала; **be fast asleep** моцна/беспрабудна/непрабудна спаць
**fasten** [ˈfɑːsn] *v.* **1.** замацоўваць; прывязваць; зашпільваць **2.** зачыняць; зачыняцца; *This door won't fasten.* Гэтыя дзверы ніяк не зачыняюцца.
**fastener** [ˈfɑːsnə] *n.* запор, засаўка, шпінгалет; зашпілька; засцежка (*розных відаў*)
**fast food** [ˌfɑːstˈfuːd] *n.* фаст-фуд, ежа хуткага прыгатавання
**fastidious** [fæˈstɪdiəs] *adj.* пераборлівы; грэблівы, гідлівы
**fat**[1] [fæt] *n.* тлушч, тук
**fat**[2] [fæt] *adj.* поўны, тоўсты, тлусты, сыты; **grow/get/become fat** таўсцець, тлусцець ♦ **a fat chance of doing smth.** слабая надзея, што; наўрад ці/што, безнадзейна
**fatal** [ˈfeɪtl] *adj.* **(to)** наканаваны, фатальны, пагібельны
**fatality** [fəˈtæləti] *n.* **1.** *fml* ахвяра, смерць (*у выніку няшчаснага выпадку, аварыі і да т.п.*); *It was a bad crash but there were no fatalities.* Гэта была сур'ёзная аварыя, але без ахвяр. **2.** смяротнасць **3.** *fml* наканаванасць
**fate** [feɪt] *n.* лёс, доля
**fated** [ˈfeɪtɪd] *adj.* наканаваны
**fateful** [ˈfeɪtfəl] *adj.* фатальны, ракавы, пагібельны
**fathead** [ˈfæthed] *n. infml* дурань, ёлуп(ень)
**father**[1] [ˈfɑːðə] *n.* **1.** бацька **2.** стваральнік **3.** *pl.* **fathers** продкі ♦ **like father, like son** ≅ яблык ад яблыні недалёка коціцца; якое дрэва, такі клін, які бацька, такі сын
**father**[2] [ˈfɑːðə] *v.* **1.** параджаць **2.** быць/лічыцца бацькам, творцам
**Father Christmas** [ˌfɑːðəˈkrɪsməs] *n. BrE* Дзед Мароз
**father-in-law** [ˈfɑːðərɪnlɔː] *n.* (*pl.* **fathers-in-law**) цесць; свёкар
**fatherless** [ˈfɑːðələs] *adj.* які не мае бацькі; **fatherless children** бязбацькавічы

**fatherly** [ˈfɑːðəli] *adj.* бацькóўскі; **fatherly advice** бацькóўская парáда; **in a fatherly way** па-бацькóўску

**Father's Day** [ˈfɑːðəzˌdeɪ] *n.* Дзень бáцькі (*свята, якое ў ЗША адзначаюць у 3-ю нядзелю чэрвеня*)

**fathom¹** [ˈfæðəm] *n.* марскí сáжань (*мера глыбіні = 6 футаў*)

**fathom²** [ˈfæðəm] *v.* (*таксама* **fathom out**) ця́міць, разумéць, спасцігáць, дапя́ць; *I still can't fathom out what she meant.* Я ўсё яшчэ не магу зразумець, што яна мела на ўвазе.

**fatigue¹** [fəˈtiːg] *n.* стóмленасць

**fatigue²** [fəˈtiːg] *v.* стамля́ць; стамля́цца

**fatten** [ˈfætn] *v.* **1.** адкóрмліваць **2.** таўсцéць, тлусцéць

**fattening** [ˈfætnɪŋ] *adj.* які́ вядзé да атлусцéння; *Bread is fattening.* Ад хлеба тлусцеюць.

**fatty¹** [ˈfæti] *n. infml, derog.* таўсту́н; таўсту́ха

**fatty²** [ˈfæti] *adj.* тлу́сты (*пра ежу*)

**fatuous** [ˈfætʃuəs] *adj. fml* дурны́, бязглу́зды; **a fatuous remark** бязглу́здая заўвáга

**faucet** [ˈfɔːsɪt] *n. AmE* кран; *The faucet leaks.* Кран цячэ.

**fault** [fɔːlt] *n.* **1.** памы́лка; хі́ба, загáна **2.** вінá, памы́лка; **be at fault** быць вінавáтым (*у чым-н.*); **find fault with (smb./smth.)** прыдзірáцца, чапля́цца (*да каго-н./чаго-н.*)

**faultless** [ˈfɔːltləs] *adj.* беззагáнны; беспамылкóвы

**faulty** [ˈfɔːlti] *adj.* загáнны, з дэфéктамі; памылкóвы

**fauna** [ˈfɔːnə] *n.* фáўна

**favor¹** [ˈfeɪvə] *AmE* = **favour¹**

**favor²** [ˈfeɪvə] *AmE* = **favour²**

**favorable** [ˈfeɪvərəbl] *AmE* = **favourable**

**favorite¹** [ˈfeɪvərɪt] *AmE* = **favourite¹**

**favorite²** [ˈfeɪvərɪt] *AmE* = **favourite²**

**favour¹** [ˈfeɪvə] *n.* **1.** прыхі́льнасць **2.** паслу́га; *Do me a favour.* Зрабіце мне ласку; *Can I ask a favour of you?* У мяне да вас просьба; **in favour (of)** за, у абарóну; на кары́сць; *Are you in favour of our new plan?* Вы за наш новы план?

**favour²** [ˈfeɪvə] *v.* стáвіцца з прыхі́льнасцю, спрыя́ць

**favourable** [ˈfeɪvərəbl] *adj.* **1.** спрыя́льны; прыхі́льны **2.** ільгóтны

**favourite¹** [ˈfeɪvərɪt] *n.* улюбёнец; улюбёнка; любі́мец; любі́міца; любі́мчык

**favourite²** [ˈfeɪvərɪt] *adj.* любі́мы, улюбёны

**fawn** [fɔːn] *n.* **1.** аленяня́, аленянё **2.** жаўтавáта-кары́чневы кóлер

**fax¹** [fæks] *n.* факс

**fax²** [fæks] *v.* пасылáць фáксам

**FBI** [ˌefbiːˈaɪ] (*скар. ад* **Federal Bureau of Investigation**) ЦРУ, Цэнтрáльнае развéдвальнае ўпраўлéнне

**FE** [ˌefˈiː] (*скар. ад* **further education**) *BrE* далéйшая адукáцыя

**fear¹** [fɪə] *n.* страх, бóязь; *I couldn't move for fear.* Са страху я не мог паварушыцца; **be in fear (of)** бая́цца ♦ ***No fear!*** *BrE, infml* Ні ў якім разе!

**fear²** [fɪə] *v. fml* бая́цца

**fearful** [ˈfɪəfəl] *adj.* **1.** жахлі́вы, жу́дасны, страшэ́нны, ву́сцішны **2.** *fml* баязлі́вы; напалóханы, перапалóханы, спу́жаны

**fearfully** [ˈfɪəfəli] *adv.* страшэ́нна, ву́сцішна

**fearless** [ˈfɪələs] *adj.* бясстрáшны, смéлы

**fearlessly** [ˈfɪələsli] *adv.* смéла, бясстрáшна

**feasible** [ˈfiːzəbl] *adj.* магчы́мы, ажыццяві́мы; **a feasible plan** здзяйсня́льны план; **a feasible idea/suggestion** здзяйсня́льная ідэ́я/прапанóва

**fearsome** [ˈfɪəsəm] *adj. fml* які́ стрáшыць/застрáшвае/палóхае/пужáе

**feast** [fiːst] *n.* свя́та; баль, балявáнне

**feat** [fiːt] *n.* пóдзвіг; майстэ́рства; *That was no mean feat.* Зрабіць гэта было нялёгка.

**feather** [ˈfeðə] *n.* пярó (*птушкі*) ♦ **birds of a feather flock together** ≅ сарóка сарóку бáчыць здалёку

**feature¹** [ˈfiːtʃə] *n.* **1.** ры́са, асаблі́васць; *The town has many interesting features.* Горад мае шмат цікавых асаблівасцей. **2.** *pl.* **features** ры́сы твáру **3.** арты́кул, ру́брыка (*у газеце*)

**feature²** [ˈfiːtʃə] *v.* **1.** пакáзваць **2.** вывóдзіць у галóўнай рóлі, (і)грáць галóўную рóлю (*у фільме*)

**feature film** [ˈfiːtʃəˌfɪlm] *n.* мастáцкі фільм

**Feb.** (*пісьмовае скар. ад* **February**) лю́ты

**February** [ˈfebruəri] *n.* лю́ты (*месяц*); **in February** у лю́тым

**feces** [ˈfiːsiːz] *AmE* = **faeces**

**Fed** [fed] *n.* **the Fed** *infml* = **the Federal Reserve**

**fed** [fed] *past, p.p.* → **feed**

**federal** [ˈfedərəl] *adj.* федэрáльны

**Federal Bureau of Investigation** [ˌfedərəlˌbjʊərəʊ əvɪnvestɪˈgeɪʃn] *n.* **the Federal Bureau of Investigation** Цэнтрáльнае развéдвальнае ўпраўлéнне, ЦРУ

**Federal Reserve System** [ˌfedərəlrɪˈzɜːvsɪstəm] *n.* **the Federal Reserve System**, *таксама* **the Federal Reserve** Федэрáльная рэзервóвая сістэ́ма (*якая ажыццяўляе крэдытна-грашовую палітыку ў ЗША*)

**federation** [ˌfedəˈreɪʃn] *n.* федэрáцыя

**fed up** [ˌˌfedˈʌp] *adj. infml* **(with)** незадаво́лены; *I'm fed up with his complaints.* Мне надакучылі яго скаргі.

**fee** [fiː] *n.* **1.** пла́та; ганара́р; *There is no entrance fee to the museum.* Уваход у музей бясплатны. **2.** узно́с, унёсак; **membership fees** чле́нскія ўзно́сы/унёскі

**feeble** [ˈfiːbl] *adj.* сла́бы, кво́лы

**feed**[1] [fiːd] *n.* **1.** е́жа, яда́, харч **2.** фура́ж

**feed**[2] [fiːd] *v.* **(fed)** карм́іць; карм́іцца; харчава́ць; харчава́цца

**feedback** [ˈfiːdbæk] *n.* зваро́тная су́вязь; рэа́кцыя ў адка́з

**feeder** [ˈfiːdə] *n.* **1.** ядо́к **2.** дапамо́жная лі́нія (*паветраная, чыгуначная, аўтобусная і да т.п.*)

**feel**[1] [fiːl] *n.* **1.** до́тык; **soft/cold to the feel** мя́ккі/ хало́дны на до́тык; **by the feel** наво́бмацак **2.** ура́жанне; адчува́нне; атмасфе́ра **3.** пачуццё; здо́тнасць, здо́льнасць ♦ **have a feel for smth.** мець здатнасць да чаго́-н.

**feel**[2] [fiːl] *v.* **(felt) 1.** адчува́ць; пачува́цца, адчува́ць сябе́; *He felt better.* Ён адчуў сябе лепш. **2.** ма́цаць, адчува́ць на до́тык; *He felt in his pocket for the key.* Ён пашукаў у кішэні ключ. ♦ **feel free to do smth.** быць во́льным рабіць што-н.; *Can I use your pen for a minute? – Feel free.* Можна мне ўзяць вашу ручку на хвілінку? – Калі ласка; **feel sick** *BrE* нудзі́ць; ванітава́ць; **feel like** хаце́ць; *I don't feel like singing now.* Мне не хочацца зараз спяваць; **feel smth. in one's bones** інстынкты́ўна прадба́чыць што-н.

**feel for** [ˌfiːlˈfɔː] *phr.v.* спачува́ць; *I feel for you.* Я вам спачуваю.

**feel up** [ˌfiːlˈʌp] *phr.v.* **(to)** мець дастатко́ва сі́лы/эне́ргіі (*рабіць што-н.*); *I don't feel up to going anywhere today.* У мяне няма сілы сёння куды-небудзь ісці.

**feeler** [ˈfiːlə] *n. zool.* шчу́пальца, ву́сік ♦ **put out feelers** *infml* пусці́ць про́бны шар

**feeling** [ˈfiːlɪŋ] *n.* **1. (of)** пачуццё, адчува́нне; **a feeling of pain/hunger** адчува́нне бо́лю/го́ладу **2. (of)** пачуццё; эмо́цыя; **good feelings** добразычлі́васць; **bad/ill feeling(s)** злосць; недаве́р; **hard feelings** крыўда; *No hard feelings!* Не крыўдуй!; Я не крыўдую; **mixed feelings** змяша́ныя пачу́цці; **hurt smb.'s feelings** крыўдзіць каго́-н. **3. (on, about)** ду́мка; ура́жанне; ста́ўленне; *What are your feelings about his proposal?* Якая ваша думка наконт яго прапановы?

**feet** [fiːt] *pl.* → **foot**

**feign** [feɪn] *v. fml* рабіць вы́гляд, сімулява́ць

**felicitous** [fəˈlɪsɪtəs] *adj. fml* уда́лы; уда́ла вы́браны

**felicity** [fəˈlɪsəti] *n.* шча́сце; уда́ча

**feline** [ˈfiːlaɪn] *adj.* каша́чы, кашэ́чы (*прыметнік ад слова* кошка)

**fell**[1] [fel] *v.* **1.** сячы́, се́кчы (*дрэвы*) **2.** валі́ць каго́-н.

**fell**[2] [fel] *past* → **fall**

**feller** [ˈfelə] *n. BrE*, *infml* = **fellow**

**fellow** [ˈfeləʊ] *n. infml* **1.** чалаве́к, хло́пец **2.** тава́рыш; ся́бра; **a fellow worker/student** тава́рыш па рабо́це/вучо́бе; **a fellow sufferer** тава́рыш па няшча́сці; **a fellow countryman** суайчы́ннік, зямля́к; **a fellow traveller** спадаро́жнік **3.** член навуко́вага тавары́ства **4.** член саве́та ўніверсітэ́та, кале́джа **5.** па́рная рэч, па́рны прадме́т

**fellowship** [ˈfeləʊʃɪp] *n.* тавары́ства, сябро́ўства

**felon** [ˈfelən] *n. law* крыміна́льны злачы́нца

**felony** [ˈfeləni] *n. AmE* (*цяжкае*) крыміна́льнае злачы́нства

**felt**[1] [felt] *n.* фетр; **a felt hat** фе́травы капялю́ш

**felt**[2] [felt] *past, p.p.* → **feel**

**female**[1] [ˈfiːmeɪl] *n.* **1.** жанчы́на **2.** *zool.* са́мка

**female**[2] [ˈfiːmeɪl] *adj.* жано́чы; жано́чага по́лу

**feminine** [ˈfemənɪn] *adj.* **1.** жано́чы **2.** жано́цкі **3.** *ling.* жано́чага ро́ду

**feminist** [ˈfemənɪst] *n.* фемінí ст; фемінí стка

**femininity** [ˌfeməˈnɪnəti] *n.* жано́цкасць

**fen** [fen] *n.* бало́та, дрыгва́

**fence**[1] [fens] *n.* **1.** агаро́джа, плот **2.** *infml* ску́пшчык і прадаве́ц кра́дзенага ♦ **sit on the fence** не ўме́швацца ў спрэ́чку, чака́ючы зру́чнага мо́манту

**fence**[2] [fens] *v.* **1.** агаро́джваць **2.** *sport* фехтава́ць

**fencer** [ˈfensə] *n. sport* фехтава́льшчык; фехтава́льшчыца

**fencing** [ˈfensɪŋ] *n.* **1.** *sport* фехтава́нне **2.** агаро́джа; матэрыя́л для агаро́джы

**fend** [fend] *v.* **: fend for oneself** само́му клапаці́цца пра сябе́, абыхо́дзіцца без чыёй-н. дапамо́гі

**fend off** [ˌfendˈɒf] *phr.v.* адбіва́ць (*удар, атаку і да т.п.*)

**fender** [ˈfendə] *n.* **1.** камí нная рашо́тка **2.** засцерага́льная рашо́тка/прыла́да

**fennel** [ˈfenl] *n. bot.* фе́нхель, сало́дкі кроп

**ferment** [ˈfɜːment] *n.* **1.** непако́й, хваля ва́нне (*у грамадстве*) **2.** *dated* ферме́нт; заква́ска

**fern** [fɜːn] *n.* па́параць, па́паратнік; **a fern flower** па́параць-кве́тка

**ferocious** [fəˈrəʊʃəs] *adj.* лю́ты, раз'ю́шаны, раз'я́траны, жо́рсткі

**ferocity** [fəˈrɒsəti] *n.* лю́тасць, раз’ю́шанасць, раз’я́транасць, жо́рсткасць
**ferret** [ˈferɪt] *n. zool.* тхор, шашо́к
**ferrous** [ˈferəs] *adj. chem.* жале́зісты; **ferrous metals** чо́рныя мета́лы
**ferry**[1] [ˈferi] *n.* **1.** паро́м **2.** перапра́ва, пераво́з
**ferry**[2] [ˈferi] *v.* перавo´зіць, перапраўля́ць на паро́ме
**fertile** [ˈfɜːtaɪl] *adj.* урадлі́вы; пладаві́ты; бага́ты (*перан.*); **fertile soil** урадлі́вая глеба; **a fertile writer** пладаві́ты пісьме́ннік; **have a fertile imagination** мець бага́тую фанта́зію
**fertility** [fəˈtɪləti] *n.* пладаві́тасць; урадлі́васць
**fertilize,** *BrE* **-ise** [ˈfɜːtəlaɪz] *v.* угно́йваць
**fertilizer,** *BrE* **-iser** [ˈfɜːtəlaɪzə] *n.* угнае́нне
**fervent** [ˈfɜːvənt] *adj.* гара́чы; па́лкі, палымя́ны
**fervor** [ˈfɜːvə] *AmE* = **fervour**
**fervour** [ˈfɜːvə] *n.* па́лкасць, энтузія́зм
**festival** [ˈfestɪvl] *n.* свя́та; фестыва́ль
**festive** [ˈfestɪv] *adj.* свято́чны
**festivity** [fesˈtɪvəti] *n.* **1.** свято́чная весяло́сць **2.** *pl.* **festivities** свя́та, святкава́нне
**festoon**[1] [fesˈtuːn] *n.* гірля́нда
**festoon**[2] [fesˈtuːn] *v.* **(with)** упрыго́жваць, аздабля́ць (*кветкамі, гірляндамі*); *The city was festooned with flags.* Горад быў упрыгожаны флагамі.
**fetch** [fetʃ] *v.* **1.** прыно́сіць; прыво́дзіць; схадзі́ць (*па каго-н./што-н.*); **fetch a doctor** паклі́каць до́ктара **2.** атрыма́ць (*за прададзеную рэч*); *This won't fetch much.* За гэта шмат не дадуць.
**fetch up** [ˌfetʃˈʌp] *phr.v. infml* (*нечакана*) апыну́цца
**fetching** [ˈfetʃɪŋ] *adj.* прыва́бны
**fetish** [ˈfetɪʃ] *n.* феты́ш
**fetishize,** *BrE* **-ise** [ˈfetɪʃaɪz] *v.* фетышызава́ць
**fetters** [ˈfetəz] *n. pl.* ланцугі́; кайданы́, кайда́ны; пу́ты (*таксама перан.*)
**fetus** [ˈfiːtəs] *n.* = **foetus**
**feud** [fjuːd] *n.* варо́жасць; **a blood feud** кро́ўная варо́жасць
**feudal** [ˈfjuːdl] *adj.* феада́льны; **the feudal system** феада́льная сістэ́ма
**feudalism** [ˈfjuːdəlɪzəm] *n.* феадалі́зм
**fever** [ˈfiːvə] *n.* гара́чка; ліхама́нка (*таксама перан.*); *He has a high fever.* У яго высокая тэмпература.
**feverish** [ˈfiːvərɪʃ] *adj.* ліхама́нкавы (*таксама перан.*)
**few** [fjuː] *n. adj.* **1.** няшма́т, нямно́га, ма́ла, ма́ла хто; *We saw few children there.* Мы бачылі там мала дзяцей. **2. : a few** не́калькі; **in a few days** праз не́калькі дзён; **quite a few** даво́лі шмат/мно́га; *Quite a few of them spoke English.* Даволі шмат хто з іх ведаў англійскую мову.
**fewer** [ˈfjuːə] *adj.* (*выш. ст. ад* **few**) менш, ме́ней ♦ **the fewer the better** чым менш, тым лепш
**fez** [fez] *n.* фе́ска
**fiancé** [fiˈɒnseɪ, fiˈɑ̃ːnseɪ] *n.* жані́х
**fiancée** [fiˈɒnseɪ] *n.* няве́ста
**fiasco** [fiˈæskəʊ] *n.* (*pl.* **-os**) фія́ска, по́ўны права́л
**fib**[1] [fɪb] *n. infml* хлусня́, мана́, брахня́
**fib**[2] [fɪb] *v. infml* хлусі́ць, браха́ць, мані́ць
**fiber** [ˈfaɪbə] *AmE* = **fibre**
**fibre** [ˈfaɪbə] *n. BrE* **1.** ні́тка, ніць **2.** валакно́
**fibroma** [faɪˈbrəʊmə] *n. med.* фібро́ма
**fibrous** [ˈfaɪbrəs] *adj.* валакні́сты
**fickle** [ˈfɪkl] *adj.* зме́нлівы, няўсто́йлівы; **fickle weather** зме́нлівае надво́р’е
**fiction** [ˈfɪkʃn] *n.* **1.** маста́цкая літарату́ра **2.** фі́кцыя; вы́думка, хлусня, вы́мысел
**fictitious** [fɪkˈtɪʃəs] *adj.* фікты́ўны; вы́думаны
**fiddle**[1] [ˈfɪdl] *n. infml* **1.** скры́пка **2.** *BrE* махіна́цыя; махля́рства ♦ **(as) fit as a fiddle** мець до́брае здаро́ўе; **play second fiddle** іграць другара́дную ро́лю, займа́ць другара́днае стано́вішча
**fiddle**[2] [ˈfɪdl] *v. infml* **1.** (і)гра́ць на скры́пцы **2.** ашу́кваць, махлява́ць; *He fiddles his income tax.* Ён махлюе са сваім падаходным падаткам.
**fiddle about** [ˌfɪdləˈbaʊt] *phr.v.* займа́цца другара́днымі спра́вамі
**fiddle around** [ˌfɪdləˈraʊnd] *phr.v.* = **fiddle about**
**fiddler** [ˈfɪdlə] *n.* скрыпа́ч
**fidelity** [fɪˈdeləti] *n. fml* **(to) 1.** ве́рнасць; **marital fidelity** шлю́бная ве́рнасць **2.** дакла́днасць; **the fidelity of the translation** дакла́днасць перакла́ду; **the fidelity of a sound recording** чысціня́ гуказа́пісу
**fidget**[1] [ˈfɪdʒɪt] *n. infml* непасе́да, гарэ́за, жэ́ўжык
**fidget**[2] [ˈfɪdʒɪt] *v.* круці́цца, ёрзаць
**field**[1] [fiːld] *n.* **1.** по́ле, луг; **in the field** на по́лі **2.** галіна́ ве́даў/дзе́йнасці **3.** спарты́ўная пляцо́ўка ♦ **have a field day :** *The tabloid press had a field day with the scandal.* Таблоіды смакавалі гэты скандал.
**field**[2] [fiːld] *adj.* **1.** палявы́; **field flowers** палявы́я кве́ткі; **field mice** палявы́я мы́шы **2.** палявы́, які́ выко́нваецца ў палявы́х умо́вах па-за лабарато́рыяй; **a field test** палявое выпрабава́нне
**field glasses** [ˈfiːldˌglɑːsɪz] *n. pl.* палявы́ біно́кль
**field sports** [ˈfiːldspɔːts] *n. pl. BrE* палява́нне, ры́бная ло́ўля

**field trip** [ˈfiːldtrɪp] *n.* **1.** экску́рсія навучэ́нцаў на прадпрые́мства, фе́рму і да т.п. **2.** вытво́рчая пра́ктыка навучэ́нцаў

**fiend** [fiːnd] *n.* **1.** злы дух; нячы́сцік; д'я́бал **2.** вы́радак, ліхадзе́й **3.** *joc.* фана́т, энтузія́ст

**fiendish** [ˈfiːndɪʃ] *adj* **1.** жо́рсткі; страшэ́нны **2.** *infml* мудрагелі́сты; склада́ны, ця́жкі; **a fiendish question** мудрагелі́стае пыта́нне

**fierce** [fɪəs] *adj.* **1.** раз'ю́шаны, раз'я́траны, разлютава́ны, шалёны; жо́рсткі **2.** ве́льмі мо́цны

**fiercely** [ˈfɪəsli] *adv.* **1.** шалёна, лю́та **2.** нястры́мна

**fiery** [ˈfaɪəri] *adj.* **1.** во́гненны, агнявы́ **2.** палымя́ны, па́лкі; **a fiery speech** палымя́ная прамо́ва **3.** запа́льчывы; **a fiery temper** запа́льчывы, гара́чы хара́ктар

**fiesta** [fiˈestə] *n.* фіе́ста

**fifteen** [ˌfɪfˈtiːn] *num., n.* пятна́ццаць

**fifteenth** [ˌfɪfˈtiːnθ] *num., n.* пятна́ццаты; пятна́ццатая ча́стка

**fifth** [fɪfθ] *num., n.* пя́ты; пя́тая ча́стка

**fifth column** [ˌfɪfθˈkɒləm] *n.* пя́тая кало́на

**fiftieth** [ˈfɪftiəθ] *num., n.* пяцідзяся́ты; пяцідзяся́тая ча́стка

**fifty** [ˈfɪfti] *num., n.* пяцьдзяся́т; **the fifties** лі́кі ад 50 да 59 (*пра гады, тэмпературу*); *She was born in the fifties.* Яна нарадзілася ў пяцідзясятых гадах; *He is in his late fifties.* Яму далёка за 50 (гадоў).

**fifty-fifty**[1] [ˌfɪftiˈfɪfti] *adj. infml* адно́лькавы, ро́ўны; *You have a fifty-fifty chance of winning.* У вас аднолькавы шанс выйграць а(ль)бо прайграць.

**fifty-fifty**[2] [ˌfɪftiˈfɪfti] *adv*. папала́м; напала́м; *Let's go fifty-fifty.* Давай падзелім (кошт) папалам.

**fig**[1] [fɪg] *n.* **1.** інжы́р, фі́га **2.** фі́гавае дрэ́ва, смако́ўніца ♦ **not care/give a fig (for smb./smth.)** *BrE, infml* **:** *I don't care a fig for it.* Мне напляваць на гэта.

**fig**[2] **1.** (*пісьмовае скар. ад* **figure**) малю́нак; чарцёж (*у кнізе*) **2.** (*пісьмовае скар. ад* **figurative(ly)**) перано́сны; у перано́сным сэ́нсе

**fight**[1] [faɪt] *n.* **1.** бой; бо́йка **2.** барацьба́, змага́нне

**fight**[2] [faɪt] *v.* **(fought) 1.** змага́цца, ваява́ць; бі́цца; **fight racism/corruption/poverty** змага́цца з расі́змам/кару́пцыяй/гале́чай; **fight (against) an enemy** змага́цца су́праць во́рага; **fight for independence** змага́цца за незале́жнасць **2. (with smb. over/about smth.)** спрача́цца ♦ **fight a losing battle** рабі́ць што-н. без надзе́і на по́спех; **fight tooth and nail** змага́цца ве́льмі рашу́ча

**fight off** [ˌfaɪtˈɒf] *phr.v.* **1.** перамагчы́; спра́віцца, адо́лець, асі́ліць *She fought off the illness.* Яна (хутка) справілася з хваробай. **2.** адбі́ць, адагна́ць; *They fought off the enemy.* Яны адбілі ворага.

**fighter** [ˈfaɪtə] *n.* **1.** змага́р, барацьбі́т **2.** *mil.* самалёт-знішча́льнік

**fighting** [ˈfaɪtɪŋ] *n.* **1.** бой; бо́йка **2.** барацьба́

**fig leaf** [ˈfɪgliːf] *n.* фі́гавы лі́сцік (*таксама перан.*)

**figment** [ˈfɪgmənt] *n.* вы́думка; фі́кцыя

**figurative** [ˈfɪgərətɪv] *adj.* перано́сны; фігура́льны; **in a figurative sense** у перано́сным сэ́нсе

**figure**[1] [ˈfɪgə] *n.* **1.** фігу́ра **2.** асо́ба, дзе́яч; *He was a prominent figure of his time.* Ён быў выдатным дзеячам свайго часу. **3.** лі́чба **4.** чарцёж; малю́нак **5.** *pl.* **figures** *infml* арыфме́тыка; **have a head for figures** мець арыфметы́чныя здо́льнасці

**figure**[2] [ˈfɪgə] *v.* **1.** займа́ць ме́сца, іграць, адыгрываць ро́лю; *She figured as chief guest that day.* Яна была галоўнай госцяй у той дзень. **2.** *infml* лічы́ць, меркава́ць; вылі́ча́ць, вылі́чваць; *We figured that he would arrive on Sunday.* Мы вылічылі, што ён прыедзе ў нядзелю.

**figure out** [ˌfɪgərˈaʊt] *phr.v.* **1.** *AmE* вылі́ча́ць; падлі́чваць; *Figure out how much we owe you.* Падлічыце, колькі мы вам вінаватыя. **2.** разуме́ць; *I can't figure him out.* Я яго не разумею.

**figurehead** [ˈfɪgəhed] *n.* наміна́льны нача́льнік/кіраўні́к; «марыяне́тка»

**figure-skating** [ˈfɪgəˌskeɪtɪŋ] *n.* фігу́рнае ката́нне

**filament** [ˈfɪləmənt] *n.* ніць, ні́тка; то́нкі дрот

**filch** [fɪltʃ] *v. infml* кра́сці, цягну́ць (*па дробязі*)

**file**[1] [faɪl] *n.* напі́льнік

**file**[2] [faɪl] *n.* **1.** *comput.* файл **2.** картатэ́ка **3.** па́пка; дасье́ **4.** падшы́ўка

**file**[3] [faɪl] *n.* рад, шарэ́нга, кало́на (*людзей*) ♦ **in single file** адзі́н за адны́м, адзі́н за другі́м, гу́жам

**file**[4] [faɪl] *v.* **1.** рэгістрава́ць, падшыва́ць (*паперы, дакументы*) **2.** ісці́ адзі́н за адны́м/гу́жам

**filial** [ˈfɪliəl] *adj.* сыно́ўскі; даччы́н

**Filipino**[1] [ˌfɪlɪˈpiːnəʊ] *n.* філіпі́нец; філіпі́нка

**Filipino**[2] [ˌfɪlɪˈpiːnəʊ] *adj.* філіпі́нскі

**fill**[1] [fɪl] *n.* дастатко́вая ко́лькасць; **eat/drink one's fill** нае́сціся/напі́цца ўво́лю

**fill**[2] [fɪl] *v.* **(with)** напаўня́ць; напаўня́цца; запаўня́ць; запаўня́цца

**fill in** [ˌfɪlˈɪn] *phr.v.* **1.** запаўня́ць (*бланк, анкету і да т.п.*) **2.** дава́ць апо́шнія зве́сткі; уво́-

дзіць у курс спра́вы; *I filled him in.* Я ўвёў яго ў курс справы. **3. (for)** замяшча́ць, замяня́ць (*каго-н.*); *I'm filling in for him while he is on leave.* Я замяшчаю яго, пакуль ён у адпачынку.

**fill out** [ˌfɪlˈaʊt] *phr.v.* папраўля́цца, акругля́цца, паўне́ць; *Her cheeks began to fill out.* Яна пачала паўнець з твару.

**fill up** [ˌfɪlˈʌp] *phr.v.* напаўня́ць; напаўня́цца; *We filled up (the car) with petrol.* Мы заправіліся бензінам.

**filling** [ˈfɪlɪŋ] *n.* **1.** напаўне́нне; начы́нка, фарш **2.** пло́мба (*зубная*)

**filling station** [ˈfɪlɪŋˌsteɪʃn] *n.* бензакало́нка, запра́вачная ста́нцыя

**filly** [ˈfɪli] *n. zool.* жаро́бка

**film**[1] [fɪlm] *n.* **1.** фільм; **a colour/silent film** каляро́вы/нямы́ фільм; **a documentary/feature film** дакумента́льны/маста́цкі фільм; **a horror film** фільм жа́хаў; **a film critic/director/producer** кінакры́тык/кінарэжысёр/кінапрадзю́сар; **make/shoot a film** здыма́ць фільм; *What film is on today?* Які фільм ідзе сёння?

**film**[2] [fɪlm] *v.* здыма́ць фільм; экранізава́ць

**filming** [ˈfɪlmɪŋ] *n.* ствар́энне фі́льма; зды́мкі фі́льма

**film-maker** [ˈfɪlmˌmeɪkə] *n.* ствара́льнік фі́льма; кінарэжысёр

**film star** [ˈfɪlmstɑː] *n.* кіназо́рка

**filmstrip** [ˈfɪlmstrɪp] *n.* дыяфі́льм

**filmy** [ˈfɪlmi] *adj.* празры́сты (*асабліва пра тканіны*)

**filter**[1] [ˈfɪltə] *n.* фільтр

**filter**[2] [ˈfɪltə] *v.* фільтрава́ць, працэ́джваць

**filth** [fɪlθ] *n.* **1.** гразь, бруд **2.** брыдо́та, паску́дства

**filthy** [ˈfɪlθi] *adj.* бру́дны, агі́дны

**filtration** [fɪlˈtreɪʃn] *n.* фільтра́цыя

**fin** [fɪn] *n.* плаўні́к

**final**[1] [ˈfaɪnl] *n.* **1.** *sport* фіна́л, фіна́льная сустрэ́ча/гульня́ **2.** *pl.* **finals** *BrE* выпускны́я экза́мены; **sit/take one's finals** здава́ць выпускны́я экза́мены

**final**[2] [ˈfaɪnl] *adj.* апо́шні; канчатко́вы

**finale** [fɪˈnɑːli] *n. mus.* фіна́л; **a grand finale** урачы́сты фіна́л

**finalist** [ˈfaɪnəlɪst] *n.* фіналі́ст; фіналі́стка

**finality** [faɪˈnæləti] *n.* заве́ршанасць; незваро́тнасць

**finalize,** *BrE* **finalise** [ˈfaɪnəlaɪz] *v.* заверша́ць; афармля́ць (*канчатковы варыянт*)

**finally** [ˈfaɪnəli] *adv.* **1.** нарэ́шце; у рэ́шце рэшт, урэ́шце **2.** у канцы́, напрыканцы́, на заканчэ́нне, у заключэ́нне; *And finally I would like to thank you all for help.* І ў заключэнне я хацеў бы падзякаваць усім вам за дапамогу. **3.** канчатко́ва; *The matter was not finally settled until later.* Справа была канчаткова вырашана толькі пазней.

**finance**[1] [ˈfaɪnæns, faɪˈnæns] *n.* фіна́нсы

**finance**[2] [ˈfaɪnæns, faɪˈnæns] *v.* фінансава́ць

**financial** [faɪˈnænʃl] *adj.* фіна́нсавы

**financier** [faɪˈnænsiə] *n.* фінансі́ст

**finch** [fɪntʃ] *n. zool.* берасця́нка, зя́блік

**find**[1] [faɪnd] *n.* (ціка́вая або́ кашто́ўная) знахо́дка

**find**[2] [faɪnd] *v.* **(found) 1.** знахо́дзіць; **find a solution** знахо́дзіць выраш́энне; *I called but found him out.* Я зайшоў, але не заспеў яго (дома); **find oneself** апыну́цца (*дзе-н.*), тра́піць (*куды-н.*); *He found himself in hospital.* Ён апынуўся ў шпіталі. **2.** існава́ць; расці́; *These flowers are found only in Africa.* Гэтыя кветкі сустракаюцца толькі ў Афрыцы. **3.** лічы́ць; адчува́ць; зразуме́ць; *I found (that) I was mistaken.* Я зразумеў, што памыляўся. **4.** *law, fml* прызнава́ць, выно́сіць прыгаво́р; *The jury found him guilty.* Прысяжныя прызналі яго вінаватым. ♦ **find fault with smb./smth.** прыдзіра́цца да каго́-н./чаго́-н., чапля́цца да каго́-н./чаго́-н.; **find one's way to** знайсці́ даро́гу да

**find out** [ˌfaɪndˈaʊt] *phr.v.* даве́двацца, выяўля́ць; высвятля́ць, выясня́ць; *Have you found out the train schedule?* Ты даведаўся (пра) расклад цягнікоў?

**finding** [ˈfaɪndɪŋ] *n.* **1.** *law* рашэ́нне (*суда*) **2.** *pl.* **findings** высно́вы, заключэ́нне; атры́маныя да́ныя

**fine**[1] [faɪn] *n.* штраф; **a heavy fine** вялі́кі штраф; **impose a fine** наклада́ць штраф

**fine**[2] [faɪn] *v.* штрафава́ць

**fine**[3] [faɪn] *adj.* **1.** прыго́жы, цудо́ўны; **a fine house** прыго́жы дом; **a fine musician** цудо́ўны музыка́нт **2.** ве́льмі до́бры (*пра самаадчуванне*); *I feel fine.* Я адчуваю сябе выдатна. **3.** я́сны; сухі́ (*пра надвор'е*) **4.** (ве́льмі) то́нкі (*таксама перан.*); **fine silk** то́нкі шоўк; **fine rain** дро́бны дождж; **fine distinctions** то́нкія разыхо́джанні

**fine**[4] [faɪn] *adv. infml* у са́мы раз; якра́з; *This dress will suit me fine.* Гэта сукенка якраз мне падыдзе; **do fine** (*пра самаадчуванне*) ве́льмі до́бра; *How is your wife? – She's doing fine, thank you.* Як здароўе вашай жонкі? – Вельмі добра, дзякуй.

**fine arts** [ˌfaɪnˈɑːts] *n. pl.* **the fine arts** выяўле́нчае маста́цтва

**finesse** [fɪˈnes] *n.* **1.** такт **2.** майстэ́рства, умéльства **3.** хі́трасць

**finger** [ˈfɪŋɡə] *n.* па́лец (*на руцэ*) ♦ **have a finger in every pie** *infml* быць замéшаным у чым-н., мець дачынéнне да ро́зных падзéй; **have/keep one's fingers in the till** *BrE, infml* кра́сці (казённыя) гро́шы, запуска́ць руку́ ў ка́су; **have/keep one's fingers on the pulse** трыма́ць руку́ на пу́льсе (*падзей, змен і да т.п.*); **keep one's fingers crossed** *infml* спадзява́цца на лéпшае; **not to lift/raise a finger** па́лец аб па́лец не ўда́рыць, па́льцам не павару́шыць; салóмку не пералóміць; **work one's fingers to the bone** працава́ць вéльмі стара́нна/не паклада́ючы рук; **be all fingers and thumbs** быць няспры́тным, няўмéлым; *His all fingers are thumbs.* У яго рукі не адтуль растуць; **not lay a finger on smb.** па́льцам не крану́ць/не зачапі́ць кагó-н.; **put one's finger on smth.** пра́вільна разумéць што-н.; папа́сці ў са́мую крóпку; **not put one's finger on smth.** не магчы́/быць не ў ста́не разабра́цца ў якóй-н. сітуа́цыі

**fingernail** [ˈfɪŋɡəneɪl] *n.* пазнóгаць (*на руцэ*)

**fingerprint** [ˈfɪŋɡəprɪnt] *n.* адбі́так/след па́льца(ў)

**fingertip** [ˈfɪŋɡətɪp] *n.* кóнчык па́льца ♦ **have smth. at one's fingertips** 1) вéдаць што-н. як сваé пяць па́льцаў 2) мець што-н. пад рукóй/у непасрэ́днай блі́зкасці; трыма́ць што-н. напагатóве

**finicky** [ˈfɪnɪki] *adj.* **1.** перабóрлівы **2.** карпатлі́вы; **a finicky job** карпатлі́вая пра́ца

**finish¹** [ˈfɪnɪʃ] *n.* канéц, завяршэ́нне, фі́ніш ♦ **from start to finish** з пача́тку да канца́

**finish²** [ˈfɪnɪʃ] *v.* **1.** канча́ць; канча́цца **2.** *sport* фінішава́ць; *He finished second.* Ён фінішаваў другім.

**finish off** [ˌfɪnɪʃˈɒf] *phr.v.* заварша́ць, давóдзіць да канца́

**finish up** [ˌfɪnɪʃˈʌp] *phr.v. infml* **1.** (нарэ́шце) апыну́цца (*дзе-н.*); аказа́цца ў які́м-н. станóвішчы; *He finished up in jail.* Ён апынуўся ў турме. **2.** даéсці, дапі́ць

**finished** [ˈfɪnɪʃt] *adj.* **1.** завéршаны **2. : be finished** 1) скóнчыць; *Are you finished with your work?* Ты скончыў сваю працу? 2) прапа́сці, тра́піць у бязвы́хаднае станóвішча; *If he refuses to help us we're finished.* Калі ён не згодзіцца памагчы нам, мы прапалі.

**finishing** [ˈfɪnɪʃɪŋ] *adj.* апóшні; **the finishing touches** апóшні штрых, заклю́чны акóрд

**finite** [ˈfaɪnaɪt] *adj.* **1.** абмежава́ны **2.** *ling.* асабóвы (*пра дзеяслоў*)

**Finn** [fɪn] *n.* фін; фі́нка; **the Finns** фі́ны

**Finnish¹** [ˈfɪnɪʃ] *n.* фі́нская мóва

**Finnish²** [ˈfɪnɪʃ] *adj.* фі́нскі

**fiord** [fjɔːd] *n.* фіёрд

**fir** [fɜː] *n.* **1.** éлка, ёлка, ялі́на **2.** пі́хта

**fire¹** [ˈfaɪə] *n.* **1.** агóнь, пóлымя; **2.** пажа́р; **put out the fire** тушы́ць пажа́р **3.** вóгнішча, касцёр **4.** страляні́на, стральба́ ♦ **between two fires** памі́ж двух агнёў; **play with fire** гуля́ць/жартава́ць з агнём; **a speech full of fire** палымя́ная/па́лкая прамóва; **be on fire** гарэ́ць, быць у агні́; **catch fire** загара́цца; **set fire to smth.** падпа́льваць што-н.

**fire²** [ˈfaɪə] *v.* **1.** страля́ць **2.** звальня́ць (*з працы*)

**firearms** [ˈfaɪərɑːmz] *n. pl. fml* агнястрэ́льная збрóя

**firebomb** [ˈfaɪəbɒm] *n.* запа́льная бóмба

**fire brigade** [ˈfaɪəbrɪˌɡeɪd] *n.* пажа́рная кама́нда

**firebug** [ˈfaɪəbʌɡ] *n. infml* падпа́льшчык

**fire engine** [ˈfaɪərˌendʒɪn] *n.* пажа́рная машы́на

**fire escape** [ˈfaɪərɪˌskeɪp] *n.* пажа́рная лéсвіца

**fire extinguisher** [ˈfaɪərɪksˌtɪŋɡwɪʃə] *n.* вогнетушы́цель

**firefighter** [ˈfaɪəfaɪtə] *n.* пажа́рны, пажа́рнік

**firefly** [ˈfaɪəflaɪ] *n. zool.* святля́к, светлячóк

**fireman** [ˈfaɪəmən] *n.* (*pl.* **-men**) пажа́рны, пажа́рнік

**fireplace** [ˈfaɪəpleɪs] *n.* камі́н; ача́г

**fireproof** [ˈfaɪəpruːf] *adj.* вогнетрыва́лы; незгара́льны

**fire station** [ˈfaɪəˌsteɪʃn] *n.* пажа́рнае дэпó

**firewood** [ˈfaɪəwʊd] *n.* дрóвы

**firework(s)** [ˈfaɪəwɜːk(s)] *n.* феервéрк

**firing** [ˈfaɪərɪŋ] *n.* **1.** стральба́, страляні́на **2.** звальнéнне

**firm¹** [fɜːm] *n.* фі́рма

**firm²** [fɜːm] *adj.* **1.** цвёрды; мóцны, трыва́лы; **a firm foundation** трыва́лы падму́рак **2.** устóйлівы, стабі́льны; **firm prices** стабі́льныя цэ́ны **3.** цвёрды, непахі́сны; **a firm decision** цвёрдае рашэ́нне; **a firm conviction** цвёрдая ўпэ́ўненасць

**firmly** [ˈfɜːmli] *adv.* цвёрда, непахі́сна

**firmness** [ˈfɜːmnəs] *n.* **1.** цвёрдасць **2.** трыва́ласць **3.** непахі́снасць; рашу́часць

**first¹** [fɜːst] *num., n., adj.* пéршы (*на пісьме часта* **1st**); **the first of May/May 1st** Пéршае ма́я; *He was the first to come.* Ён прыйшоў першым; **for the first time** упершыню́, пéршы раз ♦ **at first sight/glance** 1) з пéршага пóзірку/пóгляду 2) на пéршы пóгляд; на пéршае вóка; як на пéршае ўра́жанне; **in the first place** найпéрш, перш за ўсё; **first come, first served** ≅ пéршага пéршым і абслугóўваюць

**first**[2] [fɜːst] *adv.* **1.** спача́тку; *Do this first.* Спачатку зрабі гэта. **2.** упершыню́; *I've loved you since I first saw you.* Я пакахаў вас з таго моманту, як упершыню ўбачыў. ♦ **at first** спача́тку; **first of all** перш за ўсё; **first and foremost** найпе́рш

**first aid** [ˌfɜːstˈeɪd] *n.* пе́ршая дапамо́га

**firstborn** [ˈfɜːstbɔːn] *n.* пе́ршынец

**first class**[1] [ˌfɜːstˈklɑːs] *n.* пе́ршы клас

**first-class**[2] [ˌfɜːstˈklɑːs] *adj.* першакла́сны, высака́касны; **first-class tickets** біле́ты пе́ршага кла́са; **first-class work** першакла́сная/выда́тная пра́ца

**first class**[3] [ˌfɜːstˈklɑːs] *adv.* пе́ршым кла́сам; *She always travels first class.* Яна заўсёды ездзіць першым класам.

**first cousin** [ˌfɜːstˈkʌzn] *n.* стрые́чны брат; стрые́чная сястра́

**first floor** [ˌfɜːstˈflɔː] *n.* (*звыч.* **the first floor**) **1.** *BrE* другі́ паве́рх **2.** *AmE* пе́ршы паве́рх

**first-hand** [ˌfɜːstˈhænd] *adj.* з пе́ршых рук; **first-hand information** зве́сткі з пе́ршых рук

**first lady** [ˌfɜːstˈleɪdi] *n.* **the First Lady** пе́ршая лэ́дзі; жо́нка прэзідэ́нта (*у ЗША*)

**firstly** [ˈfɜːstli] *adv.* па-пе́ршае; *There are two reasons for my refusal. Firstly,...* Мая адмова мае дзве прычыны. Па-першае, ...

**first name** [ˈfɜːstneɪm] *n.* імя́ (*што стаіць перад прозвішчам*); **be on first-name terms** быць до́бра знаёмым, у сябро́ўскіх адно́сінах (*з кім-н.*)

**first night** [ˌfɜːstˈnaɪt] *n.* прэм'е́ра

**first person** [ˌfɜːstˈpɜːsn] *n.* **the first person** *ling.* пе́ршая асо́ба (*пра займеннікі і формы дзеяслова*); **in the first person** ад пе́ршай асо́бы; *The novel is written in the first person.* Раман напісаны ад першай асобы.

**first-rate** [ˌfɜːstˈreɪt] *adj.* першакла́сны, выда́тны

**fir tree** [ˈfɜːˌtriː] *n.* е́лка, ёлка, ялі́на

**fiscal** [ˈfɪskl] *adj. fml* фіна́нсавы; фіска́льны; **fiscal policy** фіна́нсавая палі́тыка

**fish**[1] [fɪʃ] *n.* (*pl.* **fish** *or* **fishes**) **1.** ры́ба, ры́біна; *He caught several fish.* Ён злавіў некалькі рыбін; **freshwater fish** прэснаво́дная ры́ба; **frozen/smoked fish** маро́жаная/вэ́нджаная ры́ба **2. the Fishes** *astron.* Ры́бы (*сузор'е*) **3. the Fishes** *astrol.* Ры́бы (*знак задыяка*); чалаве́к, які́ нарадзі́ўся пад гэ́тым зна́кам ♦ **have bigger/other fish to fry** мець больш ва́жныя або́ ціка́выя спра́вы; **neither fish nor fowl** ні ры́ба ні мя́са; ні то́е ні сёе; **there are other fish in the sea** ≅ свет клі́нам не сышо́ўся (*на кім-н., чым-н.*)

**fish**[2] [fɪʃ] *v.* **1.** лаві́ць ры́бу, рыба́чыць; **go fishing** пайсці́ на рыба́лку **2. (for)** шука́ць; **fish for the key/a coin in one's pocket** шука́ць ключ/мане́ту ў кішэ́ні; *He fished for the right word.* Ён шукаў патрэбнае слова; **fish for compliments** напро́швацца на кампліме́нты ♦ **fish in troubled waters** лаві́ць ры́бу ў каламу́тнай/му́тнай вадзе́

**fish out** [ˌfɪʃˈaʊt] *phr.v.* **1.** выцяѓваць, выма́ць **2.** выпы́тваць, выву́джваць

**fish and chips** [ˌfɪʃəndˈtʃɪps] *n.* ры́ба са сма́жанай бу́льбай

**fisherman** [ˈfɪʃəmən] *n.* (*pl.* **-men**) рыба́к, рыбало́ў

**fishery** [ˈfɪʃəri] *n.* **1.** ры́бная прамысло́васць; ры́бная гаспада́рка **2.** ме́сца ў мо́ры або́ рацэ́, дзе ло́вяць шмат ры́бы

**fishing** [ˈfɪʃɪŋ] *n.* **1.** ры́бная ло́ўля, рыба́лка; **go fishing** ісці́ на рыба́лку **2.** рыбало́ўства

**fishing rod** [ˈfɪʃɪŋˌrɒd] *n.* ву́да

**fishmonger** [ˈfɪʃˌmʌŋgə] *n.* гандля́р/гандля́рка ры́бай; **the fishmonger's** ры́бная кра́ма

**fishy** [ˈfɪʃi] *adj.* **1.** ры́бны (*пра смак, пах*) **2.** *infml* падазро́ны; *This sounds fishy.* Гэта гучыць падазрона.

**fission** [ˈfɪʃn] *n. phys., biol.* расшчапле́нне; дзяле́нне (*атамаў, клетак*)

**fissure** [ˈfɪʃə] *n.* шчы́ліна; трэ́шчына (*у скале, зямлі*)

**fist** [fɪst] *n.* кула́к; **clench one's fists** сціска́ць кулакі́

**fit**[1] [fɪt] *n.* **(of) 1.** прыпа́дак; пры́ступ (*пра хваробу*; *таксама перан.*); **a fit of coughing/rage** пры́ступ ка́шлю/гне́ву **2.** пары́ў; настро́й ♦ **by/in fits and starts** уры́ўкамі, нерэгуля́рна

**fit**[2] [fɪt] *adj.* **1. (for)** прыго́дны, прыда́тны; *This meat is not fit to eat.* Гэта мяса не прыдатнае для ежы./Гэта мяса нельга есці. **2. (for)** здаро́вы; *He is still not fit for work.* Ён яшчэ не можа працаваць. **3.** у (до́брай) фо́рме; *He's very fit this season.* Ён у вельмі добрай форме ў гэтым сезоне; **keep fit** захо́ўваць (до́брую) фо́рму; *I run every morning to keep fit.* Я займаюся бегам кожную раніцу, каб заставацца ў форме. ♦ **(as) fit as a fiddle** *infml* у до́брым здаро́ўі; *He is over ninety now, but still as fit as a fiddle.* Яму зараз за дзевяноста, але ён яшчэ добра сябе адчувае.

**fit**[3] [fɪt] *v.* **1.** падыхо́дзіць, адпавяда́ць; *Your description fits the facts.* Ваша апісанне адпавядае фактам. **2.** пасава́ць; быць якра́з (*памерам*); *This suit fits him very well.* Гэты касцюм добра сядзіць на ім. **3.** прыла́джваць, прыладко́ўваць

**fit in** [ˌfɪtˈɪn] *phr.v.* **1.** знахóдзіць час (*для чаго-н./каго-н.*); *I can fit you in next week.* Я магу прызначыць вам сустрэчу на наступным тыдні. **2. (with)** супадáць; падыхóдзіць; *That fits in with my plans.* Гэта цалкам супадае з маімі планамі; *His story fits in with hers.* Яго аповед пацвярджае яе словы.

**fitful** [ˈfɪtfəl] *adj.* перарывíсты; нерэгулярны

**fitness** [ˈfɪtnəs] *n.* **1. (for)** прыгóднасць, прыдáтнасць; адпавéднасць **2.** дóбрае здарóўе; натрэніравáнасць; **a fitness centre** фíтнес-цэнтр, цэнтр здарóўя

**fitted** [ˈfɪtɪd] *adj.* **1. (with)** усталявáны, абсталявáны (*чым-н.*); *Is the car fitted with a radio?* Ці ёсць у аўтамабілі радыё? **2.** прыладкавáны (*прыбіты, прыкручаны і да т.п.*); **a fitted carpet** *BrE* дывáн на ўвесь пакóй **3.** (*пра адзенне*) якóе аблягáе фігýру

**fitter** [ˈfɪtə] *n.* збóршчык, слéсар-мантáжнік

**fitting** [ˈfɪtɪŋ] *n.* **1.** *звыч. pl.* **fittings** абсталявáнне; **electric fittings** электраабсталявáнне **2.** прымéрка (*адзення*)

**five** [faɪv] *num., n.* пяць; пяцёра; пяцёрка; **Volume 5** пяты том; *It's after five.* Цяпер шостая гадзіна; **five hundred** пяцьсóт

**fiver** [ˈfaɪvə] *n. BrE, infml* пяць фýнтаў; банкнóт у пяць фýнтаў; *It costs a fiver.* Гэта каштуе 5 фунтаў; *I've got only fivers.* У мяне толькі банкноты па 5 фунтаў.

**fix¹** [fɪks] *n.* **1.** *infml* няёмкае абó цяжкае/цяжкóе станóвішча; **be in a fix** быць/апынýцца ў цяжкім станóвішчы **2.** *infml* дóза/укóл (*наркотыку*) **3.** вызначэнне мéсца (*каго-н./чаго-н.*); *We couldn't get a fix on his whereabouts.* Мы не маглі вызначыць яго месцазнаходжанне.

**fix²** [fɪks] *v.* **1.** замацóўваць; устанáўліваць, устанаўляць **2.** вырашáць, вызначáць; *They fixed the rent at £100 a month.* Яны вызначылі рэнту ў 100 фунтаў (стэрлінгаў) за месяц; *How are you fixed for Sunday?* Якія твае планы на нядзелю? **3.** папраўляць, рамантавáць, налáджваць **4.** гатавáць (*ежу*) **5.** *infml* фальсіфікавáць (*вынікі выбараў, спаборніцтва*) **6**. *infml* карáць **7.** *AmE, infml* кастрыраваць, лягчáць, пакладáць (*жывёлу*)

**fix on** [ˌfɪksˈɒn] *phr.v.* **1.** вырашáць, дамаўляцца; *Let's fix on a date.* Давайце дамовімся пра дату. **2.** затрымліваць (*думкі, увагу*); спыняць (*позірк*); *She fixed her eyes on the clock.* Яна спыніла свой позірк на гадзінніку.

**fix up** [ˌfɪksˈʌp] *phr.v.* адрамантавáць, прыстасавáць

**fixed** [fɪkst] *adj.* **1.** нерухóмы, замацавáны (*пра абсталяванне, мэблю*) **2.** дамóўлены; вырашаны; **a fixed time/date** дамóўлены час/дзень; **fixed prices** фіксавáныя цэны **3.** цвёрды, непахíсны; *He has fixed ideas.* Яго погляды не мяняюцца.

**fixture** [ˈfɪkstʃə] *n.* **1.** *BrE* запланавáнае спартыўнае мерапрыéмства **2.** нерухóмае абсталявáнне (*у доме*); сантэхніка **3.** хто-н./што-н. як пастаянная прыналéжнасць да пэўнага асярóддзя; звычáйная з'ява; *She was a fixture in the city's nightclubs.* Яна была сталай наведвальніцай начных клубаў у горадзе.

**fizz** [fɪz] *v.* шыпéць, бурбóліць, пéніцца (*пра вадкасці, напіткі*)

**fizzy** [ˈfɪzi] *adj. BrE* шыпýчы; газіравáны (*пра напіткі*)

**fjord** [fjɔːd, fiːˈɔːd] *n.*= **fiord**

**flabby** [ˈflæbi] *adj.* **1.** *infml* дрýзлы; адвíслы; вялы **2.** слáбы

**flack** [flæk] *n.* = **flak**

**flag¹** [flæg] *n.* сцяг; **hoist/raise the flag** узнімáць/уздымáць сцяг; *The flags were at half mast.* Сцягі былі прыспушчаныя (*у знак жалобы*). ♦ **fly/show/wave the flag** дэманстравáць патрыятызм/падтрымку сваёй радзімы, арганізáцыі і да т.п.

**flag²** [flæg] *v.* слабéць; стамляцца; панікáць

**flag down** [ˌflægˈdaʊn] *phr.v.* спыняць таксí/машыну

**flag day** [ˈflægdeɪ] *n.* **1.** дзень збóру грóшай на дабрачынныя мэты **2. Flag Day** Дзень нацыянáльнага сцяга ў ЗША (*14 чэрвеня*)

**flagpole** [ˈflægpəʊl] *n.* флагштóк

**flagrant** [ˈfleɪgrənt] *adj.* абурáльны; страшэнны

**flagship** [ˈflægʃɪp] *n.* флáгманскі карабéль, флáгман; **the flagship of the industry** флáгман гэтай (галіны) прамыслóвасці

**flair** [fleə] *n.* **(for)** здóльнасць, здáтнасць, тáлент

**flak** [flæk] *n.* жóрсткая крытыка

**flake** [fleɪk] *n. звыч. pl.* **flakes (of)** камякí, шматкí; **cornflakes/oat flakes** кукурýзныя/аўсяныя шматкí; **snowflakes/flakes of snow** сняжынкі

**flak jacket** [ˈflækˌdʒækɪt] *n.* бронекамізэлька

**flaky** [ˈfleɪki] *adj.* крóхкі; лóмкі; **flaky pastry** слаíстае цéста

**flamboyant** [flæmˈbɔɪənt] *adj.* **1.** квяцíсты; пышны **2.** паказны; (сама)упэўнены

**flame** [fleɪm] *n.* пóлымя; **be in flames** гарэць, быць у агнí, палáць, палымнéць

**flaming** [ˈfleɪmɪŋ] *adj.* **1.** які палáе агнём, у агнí **2.** яркі, палымяны **3.** ярка-чырвóны; вóгненна-рыжы

**flamingo** [fləˈmɪŋgəʊ] *n. zool.* фламíнга

**flammable** [ˈflæməbl] *adj.* згара́льны; вогненебяспе́чны

**flan** [flæn] *n.* адкры́ты піро́г (*звыч. з фруктовай начынкай, сырам і да т.п.*); **a mushroom flan** піро́г з грыба́мі

**flank** [flæŋk] *n.* **1.** бок (*у чалавека або жывёліны*) **2.** *mil.* фланг

**flannel** [ˈflænl] *n.* **1.** флане́ль **2.** *BrE* рукаві́чка для абціра́ння (мыцця́) тва́ру, це́ла

**flap**[1] [flæp] *n.* **1.** узма́х; ло́пат, лапата́нне (*пра крылы, ветразі*) **2.** **: the flap of a pocket/envelope** кла́пан кішэ́ні/канве́рта; **the flap of a tent** по́лка пала́ткі; **ear flaps** ву́шы ша́пкі; **a cap with flaps** аблаву́ха, ша́пка-вуша́нка **3.** *ifml* па́ніка, хвалява́нне

**flap**[2] [flæp] *v.* маха́ць; ля́пацць, ло́пацць, лапата́ць, ля́скаць; *The birds were flapping their wings.* Птушкі махалі крыламі.

**flare**[1] [fleə] *n.* **1.** я́ркае няро́ўнае святло́ **2.** успы́шка агню́ **3.** светлавы́ сігна́л; сігна́льная раке́та **4.** клёш (*пра адзенне*)

**flare**[2] [fleə] *v.* пала́ць, я́рка гарэ́ць, успы́хваць; ускіпа́ць (*таксама перан.*)

**flare up** [ˌfleəˈʌp] *phr.v.* **1.** успы́хваць **2.** выбуха́ць (*пра вайну, эпідэмію і да т.п.*) **3.** чырване́ць **4.** ускіпа́ць, узгара́цца, узбуджа́цца

**flash**[1] [flæʃ] *n.* успы́шка, про́бліск; **in a flash** імгне́нна, вокамгне́нна

**flash**[2] [flæʃ] *v.* успы́хваць, блі́скаць

**flash by** [ˌflæʃˈbaɪ] *phr.v.* пралята́ць (*пра час*)

**flashback** [ˈflæʃbæk] *n.* **1.** рэтраспе́кцыя (*у фільме, рамане і да т.п.*) **2.** успамі́н пра падзе́ю ў міну́лым (*нечаканы і хвалюючы*)

**flashlight** [ˈflæʃlaɪt] *n.* **1.** кішэ́нны ліхта́р **2.** успы́шка (*у фатаграфіі*)

**flashy** [ˈflæʃi] *adj. infml* кі́дкі, я́ркі, крыклі́вы

**flask** [flɑːsk] *n.* **1.** ко́лба; пля́шка **2.** *BrE* тэ́рмас

**flat**[1] [flæt] *n.* кватэ́ра; **a ground-floor flat** кватэ́ра на пе́ршым паве́рсе; **a block of flats** шматкватэ́рны дом

**flat**[2] [flæt] *adj.* **1.** пло́скі, пляска́ты (*камень*); ро́ўны; **a flat roof** пло́скі дах; **a flat surface** ро́ўная паве́рхня; **flat foot** *med.* плоскаступнёвасць; **flat shoes** ту́флі без абца́саў; **a flat tyre** спу́шчаная шы́на; *The battery is flat. BrE* Батарэйка села. **2.** катэгары́чны, канчатко́вы; **a flat refusal** катэгары́чная адмо́ва **3.** су́мны, аднаста́йны, ну́дны; *Life here seems flat.* Жыццё тут здаецца сумным; *His story fell flat.* Яго аповед не выклікаў зацікаўленасці. ♦ **and that's flat** гэ́та маё канчатко́вае рашэ́нне

**flat**[3] [flæt] *adv.* **1.** ро́ўна; пла́зам **2.** рашу́ча, катэгары́чна

**flatfish** [ˈflætfɪʃ] *n. zool.* ка́мбала

**flat-footed** [ˌflætˈfʊtɪd] *adj.* **1.** плоскаступнёвы **2.** *AmE* не падрыхтава́ны да пэ́ўнай падзе́і; *He was caught flat-footed by the crisis.* Крызіс здарыўся для яго нечакана.

**flatly** [ˈflætli] *adv.* катэгары́чна, рашу́ча

**flatten** [ˈflætn] *v.* раўня́ць, разраўно́ўваць

**flatter** [ˈflætə] *v.* лislі́віць, падлі́звацца

**flatterer** [ˈflætərə] *n.* лislі́вец, падлі́знік, падлі́за

**flattering** [ˈflætərɪŋ] *adj.* **1.** лislі́вы **2.** прые́мны; які́ дадае́ прыгажо́сці

**flattery** [ˈflætəri] *n.* лislі́васць

**flavor**[1] [ˈfleɪvə] *AmE* = **flavour**[1]

**flavor**[2] [ˈfleɪvə] *AmE* = **flavour**[2]

**flavour**[1] [ˈfleɪvə] *n.* смак, пры́смак; пах (*таксама перан.*); *The film gives you the flavour of Paris in the twenties.* Фільм передае атмасферу Парыжа ў дваццатыя гады.

**flavour**[2] [ˈfleɪvə] *v.* прыпраўля́ць, запраўля́ць (*ежу*)

**flaw** [flɔː] *n.* зага́на, хі́ба, дэфе́кт

**flawed** [flɔːd] *adj.* зага́нны; пашко́джаны, сапсава́ны

**flawless** [ˈflɔːləs] *adj.* беззага́нны

**flax** [flæks] *n.* лён

**flay** [fleɪ] *v.* **1.** здзіра́ць ску́ру **2.** *fml* рэ́зка крытыкава́ць

**flea** [fliː] *n.* блыха́; **a flea market** блышы́ны ры́нак/база́р

**fleck** [flek] *n.* **(of) 1.** кра́пін(к)а; пля́ма **2.** крупі́нка, драбі́нка

**fled** [fled] *past, p.p.* → **flee**

**flee** [fliː] *v.* **(fled)** *fml* **(from)** уцяка́ць; **flee the country** уцяка́ць з краі́ны

**fleece**[1] [fliːs] *n.* во́ўна, руно́, шэрсць (*авечкі*)

**fleece**[2] [fliːs] *v. infml* абіра́ць, абдзіра́ць (*каго-н.*) (*перан.*)

**fleet** [fliːt] *n.* флот; флаты́лія

**fleeting** [ˈfliːtɪŋ] *adj.* мімалётны

**Fleet Street** [ˈfliːtˌstriːt] *n.* Фліт-стрыт (*вуліца ў Лондане, дзе раней знаходзіліся рэдакцыі большасці брытанскіх газет. Цяпер ужываецца ў сэнсе "брытанскія газеты наогул"*)

**Flemish**[1] [ˈflemɪʃ] *n.* **1.** флама́ндская мо́ва (*нідэрландская мова, якая ўжываецца ў паўночнай Бельгіі*) **2. the Flemish** флама́ндцы

**Flemish**[2] [ˈflemɪʃ] *adj.* флама́ндскі; **Flemish painting** флама́ндскі жы́вапіс

**flesh** [fleʃ] *n.* **1.** це́ла; плоць **2.** мя́касць (*пладоў*) ♦ **one's flesh and blood** сваякі́; **in the flesh** у рэчаі́снасці; жывы́; **make one's flesh creep :** *It makes my flesh creep.* У мяне па целе бегаюць

мурашкі; **put flesh on smth.** дадава́ць падрабя́знасці, дэта́лі (*да аповеду, плана і да т.п.*); **go the way of all flesh** паміра́ць
**flesh wound** [ˈfleʃˌwuːnd] *n.* лёгкаеране́нне
**fleshy** [ˈfleʃi] *adj.* мясі́сты; то́ўсты
**flew** [fluː] *past* → **fly²**
**flex¹** [fleks] *n. BrE* про́вад, шнур; **an electric flex** электры́чны шнур
**flex²** [fleks] *v.* **1.** згіна́ць, гнуць **2.** сціска́ць; напру́жваць
**flexible** [ˈfleksəbl] *adj.* **1.** гну́ткі, гі́бкі, пада́тлівы **2.** які́ лёгка адапту́ецца да ро́зных абста́він
**flick¹** [flɪk] *n.* пстры́канне, ля́сканне, шчо́ўканне; зма́хванне (*як аднаразовае дзеянне*)
**flick²** [flɪk] *v.* **1.** пстры́каць, ля́скаць, шчо́ўкаць; зма́хваць; **flick the switch** шчо́ўкнуць/пстры́кнуць выключа́льнікам **2.** пераго́ртваць, гарта́ць (*кнігу, часопіс і да т.п.*)
**flicker¹** [ˈflɪkə] *v.* мігце́ць, мільга́ць, мільгаце́ць
**flicker²** [ˈflɪkə] *n.* **1.** мігаце́нне, мігце́нне, мільгаце́нне; **the flicker of a candle** мільгаце́нне све́чкі **2.** міга́нне; **the flicker of an eyelid** міга́нне паве́ка **3.** про́бліск (*надзеі, зацікаўленасці*); успы́шка (*гневу*)
**flier** [ˈflaɪə] *n.* = **flyer**
**flies** [flaɪz] *n. pl. BrE* шыры́нка, прарэ́х (*штаноў*)
**flight¹** [flaɪt] *n.* **1.** палёт, пералёт; рэйс; **a domestic/an international flight** уну́траны/міжнаро́дны рэйс; **a space flight** касмі́чны палёт **2.** чарада́ (*птушак*) **3.** пралёт (*лесвічны*) ♦ **a flight of fancy/imagination** палёт фанта́зіі
**flight²** [flaɪt] *n.* уцёкі ♦ **put smb. to flight** *dated* прыму́сіць каго́-н. уцяка́ць; **take flight** уцяка́ць
**flight crew** [ˈflaɪtˌkruː] *n.* экіпа́ж самалёта
**flight deck** [ˈflaɪtˌdek] *n.* **1.** кабі́на піло́та **2.** узлётная па́луба (*на авіяносцы*)
**flight lieutenant** [ˌflaɪtlefˈtenənt] *n.* капіта́н авія́цыі (*у Вялікабрытаніі*)
**flighty** [ˈflaɪti] *adj. infml* легкаду́мны; шалапу́тны
**flimsy** [ˈflɪmzi] *adj.* **1.** нямо́цны; ненадзе́йны **2.** то́нкі і празры́сты; **a flimsy dress** то́нкая, празры́стая суке́нка **3.** сла́бы; неперакана́ўчы; **a flimsy excuse** сла́бае апраўда́нне
**flinch** [flɪntʃ] *v.* **1. (at)** уздры́гваць **2. (from)** ухіля́цца
**fling¹** [flɪŋ] *n. infml* каро́ткі перы́яд бесклапо́тнага і вясёлага жыцця́
**fling²** [flɪŋ] *v.* **(flung)** кі́даць; кі́дацца; шпурля́ць
**flint** [flɪnt] *n.* крэ́мень
**flinty** [ˈflɪnti] *adj.* **1.** крамяні́сты; крэ́мніевы, крамянёвы **2.** хало́дны, суро́вы; **a flinty look/stare** суро́вы по́зірк
**flip** [flɪp] *v.* **1.** падкіда́ць, падкі́дваць уве́рх (*што-н. лёгкае*) **2. (on/off)** націска́ць (*на кнопку, выключальнік і да т.п.*); пстры́каць **3.** раззлава́цца; пстры́каць, фы́ркаць
**flip over** [ˌflɪpˈəʊvə] *phr.v.* **1.** пераго́ртваць (*старонкі кнігі*) **2.** перакулі́цца; перавярну́цца (*пра аўтамабіль*)
**flipper** [ˈflɪpə] *n. zool.* плаўні́к; ласт
**flirt¹** [flɜːt] *n.* каке́тка (*пра жанчыну*)
**flirt²** [flɜːt] *v.* фліртава́ць, заляца́цца, каке́тнічаць
**flit** [flɪt] *v.* пераля́таць; пы́рхаць (*таксама перан.*); *Bees flit from flower to flower.* Пчолы пералятаюць з кветкі на кветку; *He flits from one job to another.* Ён пырхае з аднаго месца працы на іншае.
**float¹** [fləʊt] *n.* паплаво́к, буй
**float²** [fləʊt] *v.* пла́ваць, плы́сці, плыць (*на паверхні*); луна́ць; *Wood floats on water.* Дрэва не тоне ў вадзе.
**flock¹** [flɒk] *n.* **1.** ста́так (*авечак, коз*); чарада́ (*птушак*) **2.** нато́ўп **3.** *lit., eccl.* парафія́не
**flock²** [flɒk] *v.* то́ўпіцца; ва́лам валі́ць; *Crowds flocked to the exhibition.* Людзі валам валілі на выставу.
**floe** [fləʊ] *n.* льдзі́на, кры́га
**flog** [flɒg] *v.* **1**. лупцава́ць, біць (*каго-н. бізуном, пугай і да т.п.*) **2.** *BrE, infml* упе́рці, прада́ць, навяза́ць (*што-н. каму-н.*) ♦ **flog a dead horse** *BrE, infml* марнава́ць сі́лы і час
**flood¹** [flʌd] *n.* **1.** паво́дка **2.** пато́к (*слёз, слоў*); **a flood of complaints** пато́к ска́ргаў
**flood²** [flʌd] *v.* затапля́ць, заліва́ць, наваднія́ць; запаўня́ць; *Cheap imported goods are flooding the market.* Танныя імпартныя тавары наваднняюць рынак.
**floodgate** [ˈflʌdgeɪt] *n.* шлюз ♦ **open the floodgates (of smth.)** 1) адкрыва́ць даро́гу (*чаму-н.*) 2) дава́ць во́лю (*пачуццям*)
**floodlight** [ˈflʌdlaɪt] *n.* пражэ́ктар
**floor** [flɔː] *n.* **1.** падло́га **2.** паве́рх; **the ground/first/second/top floor** *BrE* пе́ршы/другі́/трэ́ці/ве́рхні паве́рх **3.** дно (*мора, акіяна*) **4. the floor** ме́сцы чле́наў парла́мента ў за́ле пасяджэ́нняў **5. the floor : get/give the floor** атрыма́ць/даць сло́ва **6.** мініма́льны ўзро́вень (*цэн, заработнай платы*)
**floor lamp** [ˈflɔːˌlæmp] *n.* таршэ́р
**flop¹** [flɒp] *n.* права́л, няўда́ча (*звыч. пра фільм, п'есу і да т.п.*)

**flop**[2] [flɒp] *v.* **1.** плю́хацца, шлёпацца **2.** *infml* цярпе́ць няўда́чу; *The play flopped.* П'еса правалілася.

**flora** [ˈflɔːrə] *n.* фло́ра, раслі́ннасць

**floral** [ˈflɔːrəl] *adj.* **1.** зро́блены з кве́так або́ ўпрыго́жаны кве́ткамі **2.** квяці́сты; **a floral dress** квяці́стая суке́нка

**florid** [ˈflɒrɪd] *adj.* **1.** чырво́ны; пачырване́лы (*твар*) **2.** квяці́сты; напы́шлівы, вы́чварны; **a florid language/style** напы́шлівая мо́ва/напы́шлівы стыль

**florist** [ˈflɒrɪst] *n.* кветкаво́д; ула́да́льнік/ула́да́льніца магазі́на кве́так або́ той, хто працу́е ў ім; **the florist's** магазі́н кве́так

**flounder**[1] [ˈflaʊndə] *n. zool.* (дро́бная) ка́мбала

**flounder**[2] [ˈflaʊndə] *v.* **1.** цяле́пкацца, бо́ўтацца **2.** блы́тацца, рабі́ць памы́лкі

**flour**[1] [ˈflaʊə] *n.* мука́

**flour**[2] [ˈflaʊə] *v.* пасыпа́ць муко́й

**flourish** [ˈflʌrɪʃ] *v.* квітне́ць, працвіта́ць

**flout** [flaʊt] *v.* наўмы́сна паруша́ць зако́н, пра́вілы

**flow**[1] [fləʊ] *n.* цячэ́нне, плынь, пато́к (*таксама перан.*); **the flow of immigrants** пато́к імігра́нтаў

**flow**[2] [fləʊ] *v.* цячы́, лі́цца; *The river flows into the Baltic Sea.* Рака ўпадае ў Балтыйскае мора.

**flower**[1] [ˈflaʊə] *n.* кве́тка; **be in flower** цвісці́, быць у кве́цені; **come into flower** зацвіта́ць; **the flower of smth.** *fml* ле́пшая ча́стка чаго́-н.; **the flower of the nation's youth** цвет мо́ладзі краі́ны

**flower**[2] [ˈflaʊə] *v.* цвісці́ (*таксама перан.*)

**flower bed** [ˈflaʊəbed] *n.* клу́мба, кве́тнік

**flown** [fləʊn] *p.p.* → **fly**[2]

**flu** [fluː] *n. infml* грып; **bird flu** птушы́ны грып

**fluctuate** [ˈflʌktʃueɪt] *v.* **(between)** хіста́цца, вага́цца; кра́тацца; *Prices fluctuated between $50 & $70.* Цэны вага́ліся ад 50 да 70 долараў.

**fluctuation** [ˌflʌktʃuˈeɪʃn] *n.* **(in)** хіста́нне, вага́нне; кра́танне

**fluency** [ˈfluːənsi] *n.* бе́гласць; пла́ўнасць

**fluent** [ˈfluːənt] *adj.* **(in)** бе́глы, свабо́дны; *He is fluent in English./His English is fluent.* Ён свабодна размаўляе на англійскай мове.

**fluffy** [ˈflʌfi] *adj.* **1.** мя́ккі; пу́хкі, пушы́сты **2.** мя́ккі, пу́хкі, лёгкі (*пра ежу*)

**fluid**[1] [ˈfluːɪd] *n.* ва́дкасць; **cleaning fluid** ва́дкасць для мыцця́, чы́сткі

**fluid**[2] [ˈfluːɪd] *adj. fml* **1.** пла́ўны, грацыёзны (*пра музыку, рухі*) **2.** зме́нлівы, нестабі́льны (*пра сітуацыю*)

**fluke** [fluːk] *n. infml* (нечака́ная) уда́ча; вы́падак

**flung** [flʌŋ] *past, p.p.* → **fling**[2]

**flunk** [flʌŋk] *v. AmE, infml* **1.** правалі́ць экза́мен, тэст **2.** правалі́ць каго́-н. на экза́мене

**fluorescent** [ˌflɔːˈresnt] *adj.* флуарэсцэ́нтны

**fluoride** [ˈflɔːraɪd] *n. chem.* фтары́д

**flush**[1] [flʌʃ] *n.* **1.** прылі́ў крыві́; румя́нец **2.** пры́ступ; **a flush of anger** пры́ступ зло́сці; **a flush of embarrassment** мо́мант разгу́бленасці **3.** спуск вады́ (*у прыбіральні*)

**flush**[2] [flʌʃ] *v.* **1.** прамыва́ць, змыва́ць (*струменем вады*); спуска́ць ваду́ (*у прыбіральні*); прамыва́цца, змыва́цца; *infml* выганя́ць **2.** (па)чырване́ць

**flute** [fluːt] *n. mus.* фле́йта

**flutist** [ˈfluːtɪst] *n.* флейты́ст

**flutter** [ˈflʌtə] *v.* **1.** маха́ць, ло́паць, лапата́ць, біць кры́ламі; *The bird fluttered its wings.* Птушка махала крыламі. **2.** трапята́ць; трапята́цца; дрыжэ́ць; развява́цца, калыха́цца; *Flags fluttered in the breeze.* Вецер калыхаў сцягі.

**flux** [flʌks] *n.* **1.** няспы́нны рух; змяне́нне; *The world is in a flux.* Свет пастаянна змяняецца. **2.** пато́к, плынь

**fly**[1] [flaɪ] *n.* му́ха ♦ **a/the fly in the ointment** ≅ лы́жка дзёгцю ў бо́чцы мёду

**fly**[2] [flaɪ] *v.* **(flew, flown)** лята́ць, ляце́ць ♦ **fly into a rage** раззлава́цца, раз'ю́шыцца; раз'я́трыцца; **fly open** (нечака́на) расчыня́цца на́сцеж; *The doors flew open.* Дзверы расчыніліся насцеж.

**fly in** [ˌflaɪˈɪn] *phr.v.* прылята́ць

**fly off** [ˌflaɪˈɒf] *phr.v.* адлята́ць

**flyer** [ˈflaɪə] *n. infml* лётчык

**flying** [ˈflaɪɪŋ] *adj.* які́ лята́е, лятучы ♦ **a flying visit** *BrE* (ве́льмі) кароткатэрміно́вы візі́т; **with flying colours** з вялі́кім по́спехам, ве́льмі паспяхо́ва

**flying fish** [ˌflaɪɪŋˈfɪʃ] *n. zool.* лятучая ры́ба

**flying officer** [ˈflaɪɪŋˌɒfɪsə] *n.* ста́ршы лейтэна́нт (*у брытанскай авіяцыі*)

**flying saucer** [ˌflaɪɪŋˈsɔːsə] *n.* «лята́ючая тале́рка» (*НЛА, неапазнаны лятаючы аб'ект*)

**flying squad** [ˈflaɪɪŋskwɒd] *n.* мабі́льны палі́цэ́йскі атра́д (*у Вялікабрытаніі*)

**flyover** [ˈflaɪˌəʊvə] *n. BrE* пуцеправо́д; эстака́да

**FM** [ˈef ˈem] (*скар. ад* **frequency modulation**) часто́тная мадуля́цыя, ЧМ

**foal**[1] [fəʊl] *n.* жарабя́, жарабё

**foal**[2] [fəʊl] *v.* жарабі́цца

**foam**[1] [fəʊm] *n.* пе́на

**foam**[2] [fəʊm] *v.* пе́ніцца

**foam rubber** [ˌfəʊmˈrʌbə] *n.* парало́н

**foamy** [ˈfəʊmi] *adj.* пе́ністы

**focal** [ˈfəʊkl] *adj.* цэнтра́льны; ве́льмі ва́жны
**foci** [ˈfəʊsaɪ] *n. pl.* → **focus**[1]
**focus**[1] [ˈfəʊkəs] *n.* (*pl.* **focuses** *or* **foci**) фо́кус; цэнтр; **the focus of attention** цэнтр ува́гі
**focus**[2] [ˈfəʊkəs] *v.* **(on/upon)** змясці́ць у фо́кусе/цэ́нтры; засяро́дзіць (*увагу, думкі*); *The recent events have focused public attention on the region.* Апошнія падзеі засяродзілі ўвагу грамадскасці на гэтым рэгіёне.
**fodder** [ˈfɒdə] *n.* **1.** корм для скаці́ны, фура́ж **2.** (*неадабральна*) рэ́чы або́ лю́дзі, што мо́гуць быць вы́карыстаны для пэ́ўнай мэ́ты; **cannon fodder** гарма́тнае мя́са
**foe** [fəʊ] *n. fml* во́раг
**foetus** [ˈfiːtəs] *n. BrE, biol.* заро́дак
**fog**[1] [fɒg] *n.* тума́н
**fog**[2] [fɒg] *v.* паце́ць (*пра шкло*)
**foggy** [ˈfɒgi] *adj.* тума́нны ♦ **not have the foggiest (idea)** *infml* не мець ніякага ўяўле́ння
**foil** [fɔɪl] *n.* фо́льга
**fold**[1] [fəʊld] *n.* **1.** скла́дка, згіб **2.** лагчы́на **3. the fold** групо́ўка (*аднадумцаў, аднаверцаў*)
**fold**[2] [fəʊld] *v.* **1.** згіна́ць, склада́ць, скла́дваць (*паперу, адзенне і да т.п.*); **fold one's arms** скла́сці ру́кі на грудзя́х **2.** склада́цца; скла́дваца; *Does the table fold?* Гэты стол складаецца? **3.** заго́ртваць; *She folded the bread in a piece of paper.* Яна загарнула хлеб у кавалак паперы.
**folder** [ˈfəʊldə] *n.* па́пка
**folding** [ˈfəʊldɪŋ] *adj.* склада́ны, складны́; **a folding bed** раскладу́шка; **a folding bicycle** складны́ веласіпе́д
**foliage** [ˈfəʊliɪdʒ] *n.* лі́сце, лісто́та
**folk**[1] [fəʊk] *n. infml* **1.** наро́д, лю́дзі; **country folk** сяля́не, се́льскія жыхары́ **2.** *pl.* **folks** *AmE, infml* сваякі́; бацькі́; свае́; *How are your folks?* Як маюцца твае бацькі? **3.** *pl.* **folks** *infml* (*ужываецца як зваротак*); *Well, folks...* Ну, людцы...
**folk**[2] [fəʊk] *adj.* наро́дны; **folk music/a folk song** наро́дная му́зыка/пе́сня
**folklore** [ˈfəʊklɔː] *n.* фалькло́р
**folklorist** [ˈfəʊklɔːrɪst] *n.* фальклары́ст
**folksy** [fəʊksi] *adj.* **1.** *AmE* про́сты; фамілья́рны **2.** простанаро́дны
**follow** [ˈfɒləʊ] *v.* **1.** ісці́ ўслед/сле́дам; надыхо́дзіць; *Follow me.* Ідзі ўслед за мной. **2.** гна́цца (*за кім-н.*), пасле́даваць; *I think we're being followed.* Мне здаецца, што за намі гоняцца. **3.** сачы́ць; слу́хаць ува́жліва; *Do you follow the speaker?* Вы слухаеце прамоўцу? **4.** разуме́ць; *I didn't quite follow you.* Я не зусім вас зразумеў. **5.** трыма́цца, прытры́млівацца; **follow the rules** прытры́млівацца пра́віл(аў); **follow the advice** выко́нваць пара́ду; **follow an example** браць пры́клад **6.** выніка́ць; **it follows from this that...** з гэ́тага вынікáе, што... ♦ **follow suit** рабі́ць то́е ж са́мае; **as follows** насту́пны, такі́; *My proposal is as follows.* У мяне такая/наступная прапанова.
**follower** [ˈfɒləʊə] *n.* паслядо́ўнік; перае́мнік
**following**[1] [ˈfɒləʊɪŋ] *n.* **1.** гру́па прыхі́льнікаў **2. the following** насту́пнае, вось што; *He said the following.* Ён сказаў наступнае/вось што.
**following**[2] [ˈfɒləʊɪŋ] *adj.* насту́пны, другі́; **on the following day** на насту́пны/другі́ дзень; *Answer the following questions.* Адкажыце на наступныя пытанні.
**follow-up** [ˈfələʊʌp] *n.* праця́г
**folly** [ˈfɒli] *n.* глу́пства, неразу́мныя паво́дзіны
**fond** [fɒnd] *adj.* **1. : be fond of smb./smth.** любі́ць каго́-н./што́-н. **2. : be fond of doing smth.** мець ця́гу/схі́льнасць рабі́ць што-н.; *I'm fond of swimming.* Я люблю плаваць. **3.** пяшчо́тны, ласка́вы, заміла́ваны; **a fond look** заміла́ваны по́зірк; **a fond farewell** пяшчо́тнае развіта́нне **4.** безнадзе́йны, ма́рны; **a fond hope** ма́рная надзе́я
**fondly** [ˈfɒndli] *adv.* **1.** ласка́ва, пяшчо́тна **2.** ма́рна
**fondness** [ˈfɒndnəs] *n.* пяшчо́тнасць, ласка́васць
**food** [fuːd] *n.* е́жа, ядá, харч; **food and drink** ядá і піццё; **frozen foods** замаро́жаныя праду́кты; **the food industry** харчо́вая прамысло́васць ♦ **food for thought** пажы́ва для ро́здуму
**foodie** [ˈfuːdi] *n. infml* ама́тар/ама́тарка пае́сці або́ гатава́ць ро́зныя стра́вы
**food poisoning** [ˈfuːdˌpɔɪzənɪŋ] *n. med.* харчо́вае атручэ́нне, атручэ́нне е́жай
**food processor** [ˈfuːdˌprəʊsesə] *n.* кухо́нны камба́йн
**foodstuff** [ˈfuːdstʌf] *n. звыч. pl.* **foodstuffs** харчо́вы праду́кт; **basic foodstuffs** асно́ўныя харчо́выя праду́кты
**fool**[1] [fuːl] *n.* **1.** ду́рань; *He is no/nobody's fool.* Ён зусім не дурань. **2.** *hist.* блáзан (*пры двары*); **make a fool of smb.** абду́рваць каго́-н. ♦ **make a fool of oneself** ста́віць сябе́ ў дурно́е стано́вішча; **play the fool** дурэ́ць, стро́іць ду́рня; *A fool and his money are soon parted.* Дурань і яго грошы хутка развітваюцца.
**fool**[2] [fuːl] *v.* **1.** абду́рваць; *You can't fool him.* Яго не абдурыш. **2.** жартава́ць, шуткава́ць
**fool about** [ˌfuːləˈbaʊt] *phr.v.* валя́ць ду́рня, дурэ́ць
**fool around** [ˌfuːləˈraʊnd] *BrE* = **fool about**
**foolhardy** [ˈfuːlhɑːdi] *adj.* безразва́жна сме́лы

**foolish** [ˈfuːlɪʃ] *adj.* дурны́, дурнава́ты

**foolishness** [ˈfuːlɪʃnəs] *n.* глу́пства, ду́расць; неразва́жлівасць

**foolproof** [ˈfuːlpruːf] *adj.* **1.** пра́вільны, надзе́йны; **a foolproof plan** надзе́йны план **2.** *infml* про́сты, нескладáны (*для разумення, ужывання*)

**foot**[1] [fʊt] *n.* (*pl.* **feet**) **1.** нага́; ступня́; **in bare feet** басано́ж; **a foot brake** нажны́ то́рмаз; **on foot** пе́шшу, пехато́й; **rise/get to one's feet** устава́ць, паднiма́цца **2.** падно́жжа, ні́жняя ча́стка; **the foot of the mountain** падно́жжа гары́; **the foot of the page** ні́жняя ча́стка старо́нкі **3.** (*pl.* **feet** *or* **foot**) фут (≈ *30,5 см*); *How tall are you? – Five foot six.* Які твой рост? – 5 футаў 6 дзюймаў. **4.** *poet.* стапа́ ♦ **set foot in/on smth.** ступі́ць наго́й куды́-н., пабыва́ць дзе-н.; **the first man to set foot on the Moon** пе́ршы чалаве́к, які́ ступі́ў наго́й на Ме́сяц/пабыва́ў на Ме́сяцы; **stand on one's own (two) feet** быць самасто́йным, не зале́жаць ад каго́-н.; **have one's feet on the ground** быць рэалі́стам; **have one foot in the grave** *infml* стая́ць адно́й наго́й у магі́ле; **put one's foot down** скарыста́ць ула́ду, каб забарані́ць/прыпыні́ць што-н.

**foot**[2] [fʊt] *v.* **: foot the bill** *infml* апла́чваць раху́нак

**footage** [ˈfʊtɪdʒ] *n.* пэ́ўны эпізо́д з фі́льма

**foot-and-mouth disease** [ˌfʊtəndˈmaʊθdɪˌziːz] *n.* я́шчур

**football** [ˈfʊtbɔːl] *n.* **1.** футбо́л **2.** футбо́льны мяч

**footballer** [ˈfʊtbɔːlə] *n. BrE* футбалі́ст

**foothold** [ˈfʊthəʊld] *n.* **1.** пункт, ме́сца апо́ры (*пры пад'ёме на гару*) **2.** плацда́рм, зыхо́дны пункт для чаго́-н.

**footing** [ˈfʊtɪŋ] *n.* **1.** апо́ра, пункт апо́ры; **lose one's footing** спатыкну́цца, паслізну́цца **2.** асно́ва; **on a legal/scientific footing** на зако́ннай/навуко́вай асно́ве **3.** узаемаадно́сіны; **be on an equal footing (with)** быць на адно́лькавых права́х

**footlights** [ˈfʊtlaɪts] *n. pl. theatre* ра́мпа, святло́ ра́мпы

**footnote** [ˈfʊtnəʊt] *n.* зно́ска

**footpath** [ˈfʊtpɑːθ] *n.* пешахо́дная сце́жка

**footprint** [ˈfʊtprɪnt] *n.* след

**footstep** [ˈfʊtstep] *n.* след; крок

**footwear** [ˈfʊtweə] *n.* абу́так

**for**[1] [fɔː, fə] *prep.* **1.** (*пра час і адлегласць*) 1) на праця́гу; на; *He lived there for 10 years.* Ён жыў там (на працягу) 10 гадоў; **for life** на ўсё жыццё 2) (*таксама перадаецца він. скл.*) *He ran for a mile.* Ён прабег мілю. **2.** (*пры абазначэнні мэты, прызначэння*) для, дзе́ля; па, за; **books for children** кні́жкі для дзяце́й; *We did it for fun.* Мы зрабілі гэта дзеля забавы; **what for?** дзе́ля чаго́?/наво́шта?; **fight for freedom** змага́цца за во́лю **3.** (*пра прычыну*) ад, за, з-за, праз; **cry for joy** пла́каць ад ра́дасці; *I can't see anything for the fog.* Я нічога не бачу з-за туману. **4.** (*пры абазначэнні напрамку*) у, на; **sail for London** плыць у Ло́ндан; **passengers for Liverpool** пасажы́ры на Ліверпу́ль **5.** (*пры ўказанні на цану*) на, за; **a check for $5** чэк на 5 до́лараў; *They sold the car for four thousand dollars.* Яны прадалі аўтамабіль за 4 тысячы долараў. **6.** (*пры абазначэнні адносін, схільнасцей*) да; **love for children** любо́ў да дзяце́й; **an ability for music** здо́льнасці да му́зыкі **7.** заме́ст, за; *I'll do it for him.* Я зраблю гэта замест яго. **8.** (*пры абазначэнні падтрымкі*) *Are you for the proposal?* Вы за гэту прапанову?

**for**[2] [fɔː, fə] *conj.* таму́ што, бо; *He found it difficult to read, for his eyes were failing.* Яму цяжка было чытаць, бо зрок у яго пагаршаўся.

**forage**[1] [ˈfɒrɪdʒ] *n.* фура́ж

**forage**[2] [ˈfɒrɪdʒ] *v.* **(for)** шука́ць

**foray** [ˈfɒreɪ] *n.* вы́лазка; набе́г

**forbade** [fəˈbæd, fəˈbeɪd] *past* → **forbid**

**forbid** [fəˈbɪd] *v.* **(forbade, forbidden)** забараня́ць, не дазваля́ць ♦ **God/Heaven forbid (that...)** Бара́ні бо́жа, не дай бог, няха́й бог крые́

**forbidden**[1] [fəˈbɪdn] *adj.* забаро́нены ♦ **forbidden fruit** забаро́нены плод

**forbidden**[2] [fəˈbɪdn] *p.p.* → **forbid**

**forbidding** [fəˈbɪdɪŋ] *adj.* суро́вы, гро́зны; непрыве́тлівы

**force**[1] [fɔːs] *n.* **1.** сі́ла, моц; **the force of the blow/explosion** моц уда́ру/вы́буху **2.** гвалт; насі́лле; **by force** гва́лтам, гвалто́ўна; **use force** прымяня́ць насі́лле **3.** *звыч. pl.* **the forces** *mil.* во́йска; **government forces** ура́давае во́йска; **the armed forces** узбро́еныя сі́лы; **a peace-keeping force** міратво́рчыя сі́лы **4.** *phys.* сі́ла; **the force of gravity** сі́ла прыцягне́ння **5. the force** палі́цыя ♦ **in force** мно́ства, шмат; **be in force** мець сі́лу, дзе́йнічаць (*пра закон, правіла*); **bring into force** уво́дзіць у сі́лу; **come/enter into force** уваxо́дзіць у сі́лу

**force**[2] [fɔːs] *v.* **1.** прымуша́ць, змуша́ць; *He forced himself to stand up.* Ён прымусіў сябе ўстаць; *I was forced to look for another job.* Я быў вымушаны шукаць іншую працу. **2.** узло́мліваць; *The thieves forced the lock/*

абяцанне. ♦ **harbour a grudge against smb.** ≅ мець вóка на кагó-н.

**hard**[1] [hɑ:d] *adj.* **1.** цвёрды; жóрсткі; мýлкі **2. (for)** цяжкі (*для выканання, для разумення і да т.п.*) **3.** старáнны, упáрты; цвёрды **4.** стрóгі, сурóвы; бязлíтасны, лю́ты, жóрсткі ♦ **be hard on smb./smth.** быць стрóгім/сурóвым з кім-н.; трымáць кагó-н. у стрóгасці; быць несправядлíвым з кім-н.; дрэ́нна абыхóдзіцца з чым-н., не берагчы́ ад пашкóджвання; **drive/strike a hard bargain** заключы́ць вы́гадную здзéлку, дзéйнічаючы цвёрда і агрэсíўна; **give smb. a hard time** спецыяльна ўскладняць жыццё камý-н.; **hard and fast** непахíсны, цвёрды; жóрсткі; стрóга азнáчаны; непарýшны; вы́значаны раз і назаўсёды; **(as) hard as nails** бяздýшны, бессардэ́чны, бязлíтасны, лю́ты, жóрсткі; **hard cheese** нешанцавáнне, няўдáча; **hard going** нéшта цяжкае, што патрабýе шмат намагáнняў, вы́сілкаў (*каб зрабіць, зразумець і да т.п.*); **hard luck/lines!** (табé) не пашанцавáла!; **make hard work of smth.** перастарáцца; трáціць больш сіл і чáсу, чым трэ́ба на што-н.; **no hard feelings?** вы не пакрыўдзіліся?/вы не крыўдýеце?; **too much like hard work** які́ патрабýе шмат намагáнняў, вы́сілкаў

**hard**[2] [hɑ:d] *adv.* **1.** мóцна, інтэнсíўна; энергíчна **2.** руплíва, старáнна; настóйліва **3.** цяжка, насíлу **4.** вéльмі шмат, празмéрна; занáдта ♦ **be hard up for smth.** адчувáць нястáчу ў чым-н.; **hard on smth.** вéльмі хýтка пасля́ чагó-н., неўзабáве; **take smth. hard** быць вéльмі засмýчаным чым-н.; **be hard pressed/pushed/put to do smth.** быць у цяжкім станóвішчы

**hardback** [ˈhɑ:dbæk] *n.* кнíга ў цвёрдым пераплёце/цвёрдай вóкладцы

**hardball** [ˈhɑ:dbɔ:l] *n.* **1.** звычáйны бейсбóл (*у адрозненне ад міні-бейсбола*) **2.** рашучая, непахíсная манéра павóдзін (*звычайна пра палітыкаў*)

**hard-boiled** [ˌhɑ:dˈbɔɪld] *adj.* звáранае ўкрутýю (*пра яйка*)

**hard cash** [ˌhɑ:dˈkæʃ] *n. BrE* грóшы, наяўныя грóшы, гатóўка

**hard core**[1] [ˌhɑ:dˈkɔ:] *n.* ядрó, цэнтр арганізáцыі

**hard-core**[2] [ˌhɑ:dˈkɔ:] *adj.* жóрсткі, цвердалóбы

**hard currency** [ˌhɑ:dˈkʌrənsi] *n. finance* валю́та, што свабóдна канверсýецца

**harden** [ˈhɑ:dn] *v.* **1.** рабíць цвёрдым; рабíцца цвёрдым; зацвердзявáць, цвярдзéць; *The cement hardened.* Цэмент зацвярдзеў. **2.** умацóўваць; загартóўваць; загартóўвацца; **harden steel** загартóўваць сталь **3.** рабíць неадчувáльным; рабíцца неадчувáльным, жóрсткім; **harden one's heart against smb.** стаць бязлíтасным да кагó-н.; **harden smb. to smth.** рабíць кагo-н. загартавáным, вынóслівым да чагo-н.; умацóўваць; **harden to labour** прывы́кнуць да цяжкай прáцы; **harden the body/oneself against cold** прывучáць цéла/сябé да хóладу

**hard-fisted** [ˌhɑ:dˈfɪstɪd] *adj.* скупы́, сквáпны, хцíвы, скнáрлівы

**hard-headed** [ˌhɑ:dˈhedɪd] *adj.* **1.** практы́чны, цвярóзы; *He is a hard-headed businessman.* У яго ёсць хватка бізнесмена. **2.** упáрты, цвердалóбы

**hard-hearted** [ˌhɑ:dˈhɑ:tɪd] *adj.* бессардэ́чны, бяздýшны, чэ́рствы; бязлíтасны, жóрсткі

**hard labour** [ˌhɑ:dˈleɪbə] *n.* кáтарга

**hard-line** [ˌhɑ:dˈlaɪn] *adj.* які́ прытры́мліваецца жóрсткай лíніі; непадáтлівы, няўступчывы, бескампрамíсны (*пра палітыка або палітыку кагo-н.*)

**hardly** [ˈhɑ:dli] *adv.* **1.** наўрáд; малаверагóдна; *There's hardly any time left.* У нас зусім не засталося часу. **2.** ледзь, як тóлькі; *Hardly had she found the place to hide, when the door burst open.* Ледзь толькі яна знайшла месца, каб схавацца, як дзверы расчыніліся.

**hard of hearing** [ˌhɑ:dəvˈhɪərɪŋ] *adj.* тугí на вýха

**hard-pressed** [ˌhɑ:dˈprest] *adj.* які́ знахóдзіцца ў складáным станóвішчы (*асабліва з-за недахопу часу, грошай і да т.п.*)

**hardship** [ˈhɑ:dʃɪp] *n.* нягóда, нястáча; *It was no hardship to do this.* Гэта было няцяжка зрабіць.

**hard shoulder** [ˌhɑ:dˈʃəʊldə] *n. BrE* абóчына (*дарогі для машын*)

**hard up** [ˌhɑ:dˈʌp] *adj. infml* які́ жывé ў бéднасці, цéрпіць нястáчу, мáе патрэ́бу; **hard up students** студэ́нты без капéйкі ў кішэ́ні; *The company is hard up for new ideas.* Кампаніі вельмі патрэбны новыя ідэі.

**hardware** [ˈhɑ:dweə] *n.* **1.** камп'ютарнае абсталявáнне **2.** скабяныя вы́рабы **3. : military hardware** узбраéнне (*танкі, гарматы і да т.п.*)

**hardwood** [ˈhɑ:dwʊd] *n.* цвёрдая драўнíна

**hard-working** [ˌhɑ:dˈwɜ:kɪŋ] *adj.* працавíты

**hardy** [ˈhɑ:di] *adj.* **1.** вынóслівы, загартавáны (*пра людзей, жывёл*) **2.** *bot.* марозаўстóйлівы

**hare** [heə] *n.* зáяц; **European hare** зáяц-русáк; **a young hare** зайчаня́, зайчанё

**hare-brained** [ˈheəbreɪnd] *adj. infml* дурны́, неразу́мны, бязду́мны, безразва́жны; недарэ́чны, бессэнсо́ўны; **a hare-brained action** бязду́мны ўчы́нак; **a hare-brained suggestion** недарэ́чная прапано́ва

**harem** [ˈhɑːriːm, ˈhɑːrəm] *n.* гарэ́м

**hark** [hɑːk] *v. dated* (*толькі ў загадным ладзе*) слу́хайце!

**hark back** [ˌhɑːkˈbæk] *phr.v.* **(to smth.)** **1.** вярну́цца, зноў звярну́цца (*да тэмы, размовы і да т.п.*) **2.** напаміна́ць (пра што-н.), нага́дваць (што-н.)

**harlequin** [ˈhɑːləkwɪn] *n.* арлекі́н; клоўн; пая́ц

**harm**[1] [hɑːm] *n.* шко́да; зло; несправядлі́васць ♦ **no harm done** гэ́та не нарабіла шко́ды; **out of harm's way** у бяспе́чным ме́сцы, стано́вішчы і да т.п; дале́й ад граху́; **there is no harm in (smb.'s) doing smth./it does no harm (for smb.) to do smth.** у гэ́тым няма́ нічо́га дрэ́ннага

**harm**[2] [hɑːm] *v.* шко́дзіць; крыўдзіць; прычыня́ць боль

**harmful** [ˈhɑːmfl] *adj.* **(to)** шко́дны

**harmless** [ˈhɑːmləs] *adj.* **(to)** няшко́дны; бясшко́дны

**harmonic** [hɑːˈmɒnɪk] *adj.* **1.** гармані́чны; стро́йны **2.** музы́чны, мелады́чны

**harmonica** [hɑːˈmɒnɪkə] *n.* губны́ гармо́нік

**harmonious** [hɑːˈməʊniəs] *adj.* **1.** гармані́чны; які́ гарманізу́е; сугу́чны **2.** дру́жны, згодны, адпаве́дны; мі́рны **3.** мелады́чны, мілагу́чны

**harmonize,** *BrE* **-ise** [ˈhɑːmənaɪz] *v.* **1. (with)** гармані́раваць; адпавяда́ць, спалуча́цца; *Pink doesn't harmonize with red.* Ружовы не гармані́руе з чырвоным. **2.** узгадня́ць, пагаджа́ць; суразме́рваць; **harmonize one's wishes with one's abilities** суразме́рваць жада́нні з магчы́масцямі **3. (with)** гарманізава́ць; зла́джана спява́ць і іграць

**harmony** [ˈhɑːməni] *n.* **1.** зго́да, сула́днасць; мір; **live in harmony** жыць у зго́дзе **2.** *mus.* гармо́нія, сугу́чнасць; мілагу́чнасць, зла́джанасць гуча́ння

**harness**[1] [ˈhɑːnɪs] *n.* **1.** збру́я, ву́праж **2.** рамяні́ бяспе́кі (*у машыне*) ♦ **be in harness** быць заня́тым штодзённай пра́цай, цягну́ць ля́мку; **be in harness (with smb.)** *BrE* працава́ць ра́зам з (кім-н.), це́сна супрацо́ўнічаць

**harness**[2] [ˈhɑːnɪs] *v.* **1. (to)** запрага́ць; прывя́зваць (*да чаго-н.*) з дапамо́гай ву́пражы **2.** утаймо́ўваць, скара́ць (*раку, вадаспад і да т.п.*)

**harp**[1] [hɑːp] *n.* а́рфа

**harp**[2] [hɑːp] *v.* **1.** ігра́ць на а́рфе **2. (on/upon)** гавары́ць, бубні́ць адно́ і то́е ж

**harp on** [hɑːpˈɒn] *phr.v.* шмат гавары́ць; балбата́ць няспы́нна

**harpist** [ˈhɑːpɪst] *n.* арфі́ст; арфі́стка

**harpoon** [hɑːˈpuːn] *n.* гарпу́н

**harpsichord** [ˈhɑːpsɪkɔːd] *n.* клавесі́н

**harrow**[1] [ˈhærəʊ] *n.* барана́

**harrow**[2] [ˈhærəʊ] *v.* **1.** баранава́ць **2.** му́чыць; прыно́сіць паку́ты

**harrowing** [ˈhærəʊɪŋ] *adj.* **1.** жахлі́вы, жу́дасны, страшэ́нны **2.** паку́тлівы, балю́чы, нясце́рпны

**harsh** [hɑːʃ] *adj.* **1.** гру́бы, рэ́зкі **2.** суро́вы; непрые́мны; лю́ты; **a harsh winter** суро́вая зіма́ **3.** крыклі́вы (*пра колер*)

**hart** [hɑːt] *n.* але́нь-саме́ц

**harvest**[1] [ˈhɑːvɪst] *n.* **1.** жніво́; **harvest time** час збо́ру ўраджа́ю **2.** ураджа́й; **a poor harvest** дрэ́нны ўраджа́й, няўро́д

**harvest**[2] [ˈhɑːvɪst] *v.* збіра́ць ураджа́й; жаць

**harvester** [ˈhɑːvɪstə] *n.* **1.** убо́рачная машы́на, камба́йн; жняя́рка **2.** жнец; жняя́; той, хто збіра́е ўраджа́й

**harvest festival** [ˌhɑːvɪstˈfestɪvəl] *n.* свя́та ўраджа́ю

**harvest home** [ˌhɑːvɪstˈhəʊm] *n.* кане́ц жніва́, дажы́нкі

**harvest moon** [ˌhɑːvɪstˈmuːn] *n.* по́ўня, бліжэ́йшая да дня асе́нняга раўнадзе́нства

**has** [hæz, həz] *3-я асоба, адз. л., цяпер. ч. ад* **have**

**has-been** [ˈhæzbiːn] *n. infml* чалаве́к, які́ стра́ціў былу́ю ва́жнасць, папуля́рнасць, прыгажо́сць і да т.п.; *It is better to be a has-been than a never-was.* Лепш хоць адзін дзень быць кімсьці, чым усё жыццё нікім.

**hash**[1] [hæʃ] *n.* **1.** стра́ва з мя́са і бу́льбы, нарэ́заных невялі́кімі кава́лкамі і пераме́шаных ра́зам **2.** мешані́на, блытані́на **3.** (*таксама* **hash sign**) знак # ♦ **make a hash of smth.** *infml* рабі́ць што-н. дрэ́нна

**hash**[2] [hæʃ] *n. infml* гашы́ш; марыхуа́на

**hashish** [ˈhæʃiːʃ, hæˈʃiːʃ] *n.* гашы́ш

**hasn't** [ˈhæznt] *скар. ад* has not

**hasp** [hɑːsp] *n.* за́саўка; кручо́к; кля́мка; за́шчапка

**hassle**[1] [ˈhæsl] *n. infml* **1.** ця́жкасць, перашко́да **2.** сва́рка, ла́янка; барацьба́, бо́йка; **give smb. some hassle** свары́цца з кім-н.; пярэ́чыць каму́-н.

**hassle**[2] [ˈhæsl] *v. infml* дакуча́ць, надаку́чваць; назаля́ць; чапля́цца; дайма́ць, дапяка́ць

**haste** [heɪst] *n.* спе́шка; **in haste** спе́хам, паспе́шліва; **make haste** спяша́цца ♦ **more haste, less speed** ≅ паво́лі е́дзеш – далёка ста́неш; пама́лу е́дучы – дале́й зае́дзеш; **haste makes waste** ≅ паспе́х – людзя́м на смех

**hasten** [ˈheɪsn] *v.* **1.** спяша́цца; ху́тка, не адклада́ючы рабі́ць (*што-н.*); **hasten to remark** адра́зу/не адкла́дваючы заўва́жыць **2.** *fml* падганя́ць, прыспе́шваць (*каго-н.*) **3.** паскара́ць (*крокі, ад'езд і да т.п.*)

**hasten away** [ˌheɪsnəˈweɪ] *phr.v.* **: hasten away home** паспяша́цца да ха́ты

**hastily** [ˈheɪstɪli] *adv.* **1.** ху́тка, спяша́ючыся; у спе́шцы, спе́хам **2.** неабду́мана, неразва́жліва

**hasty** [ˈheɪsti] *adj.* **1.** паспе́шны, паспе́шлівы **2.** неабду́маны, неразва́жлівы; **hasty decision** паспе́шнае/неабду́манае рашэ́нне

**hat** [hæt] *n.* капялю́ш ♦ **go hat in hand (to smb.)** прасі́ць (каго́-н.) ліслі́ва/уго́дліва; **keep smth. under your hat** *infml* трыма́ць што-н. у сакрэ́це; **my hat!** *BrE, dated* трэ́ба ж!; невераго́дна!; **out of a/the hat** наўздага́д; **take one's hat off to smb./hats off to smb.** *infml* захапля́цца кім-н., пакланя́цца каму́-н., ста́віцца з вялі́кай паша́най да каго́-н.; **throw one's hat into the ring** прыня́ць вы́клік на спабо́рніцтва, абвясці́ць пра наме́р удзе́льнічаць у спабо́рніцтве

**hatch¹** [hætʃ] *n.* **1.** люк **2.** аке́нца ў сцяне́ памі́ж двума́ пако́ямі, асаблі́ва ку́хняй і стало́вай, праз яко́е падае́цца е́жа **3.** дзве́ры (*у самалёце, касмічным караблі і да т.п.*) ♦ **down the hatch!** *infml* вы́п'ем!; ва́ша здаро́ўе!; (пі) да дна!

**hatch²** [hætʃ] *v.* **1.** высе́джваць (*куранят*); *We hatched the eggs by keeping them in a warm place.* Мы вывелі куранят, трымаючы яйкі ў цяпле. **2. (out)** вылу́пліваца (*з яйка*); *Three eggs have already hatched* (*out*). З трох яек ужо вывеліся кураняты. **3. (up)** вынóшваць, распрацóўваць (*ідэю, план*); **hatch (up) a plot** заду́мваць змо́ву

**hatchet** [ˈhætʃɪt] *n.* сяке́рка

**hate¹** [heɪt] *n.* **1.** ння́вісць; агі́да; **a look of hate** по́зірк, по́ўны нян́авісці **2.** *infml* аб'ект няна́вісці; *He is her pet hate.* Яна яго цярпець не можа.

**hate²** [heɪt] *v.* **1.** ненаві́дзець, не выно́сіць (*каго-н./што-н.*); адчува́ць агі́ду **2.** ве́льмі шкадава́ць (*аб чым-н.*), ве́льмі не жада́ць (*чаго-н.*); *I hate troubling you.* Мне вельмі не хочацца турбаваць вас; *I hate talking about it.* Мне вельмі непрыемна гаварыць пра гэта. ♦ **hate smb.'s guts** мо́цна ненаві́дзець каго́-н., адчува́ць агі́ду да каго́-н.

**hateful** [ˈheɪtfl] *adj.* ненаві́сны, по́ўны няна́вісці

**hath** [hæθ, həθ] *v. dated* = **has**

**hatred** [ˈheɪtrɪd] *n.* **(for/of/towards)** няна́вісць; агі́да; **racial hatred** ра́савая няна́вісць

**hatter** [ˈhætə] *n. dated* **1.** капялю́шны ма́йстар, капялю́шнік; капялю́шніца **2.** гандля́р або́ гандля́рка капелюша́мі

**hat-trick** [ˈhættrɪk] *n.* **1.** тры мячы́ за́пар, забі́тыя ў гульні́ адны́м спартсме́нам **2.** тры перамо́гі, атры́маныя за́пар адны́м чалаве́кам

**haughty** [ˈhɔːti] *adj.* фанабэ́рысты, ганарлі́вы; напы́шлівы, пыхлі́вы

**haul¹** [hɔːl] *n.* **1.** вялі́кая ко́лькасць чаго́-н. (*асабліва ўкрадзенага ці незаконнага*); *The haul of money, stolen from the bank, hasn't been found by the police.* Паліцыя не знайшла грошы, якія былі ўкрадзены ў банку. **2.** (*у спорце*) вялі́кая ко́лькасць ачко́ў, гало́ў і да т.п.; *Her haul of 30 points in a season is the best result in her career.* 30 ачкоў за сезон – найлепшы вынік за ўсю яе кар'еру. **3.** про́йдзеная адле́гласць; рэйс **4.** уло́ў

**haul²** [hɔːl] *v.* **1.** цягну́ць; цягну́цца (*цераз сілу*); валачы́; валачы́ся **2.** ве́сці або́ цягну́ць (*каго-н.*) сі́лаю **3.** выклі́каць (*у суд*); прыця́гваць ♦ **haul smb. over the coals** рабі́ць каму́-н. вымо́ву; дава́ць нагана́й каму́-н.

**haulage** [ˈhɔːlɪdʒ] *n. BrE* **1.** даста́ўка, пераво́з, транспарціро́ўка; **a haulage firm** фі́рма, яка́я займа́ецца даста́ўкай **2.** кошт даста́ўкі, пераво́зу

**haunch** [ˈhɔːntʃ] *n.* **1.** бядро́, клуб; ля́жка, сцягно́ **2.** сцягно́, кумпя́к (*у жывёліны*)

**haunt¹** [hɔːnt] *n.* улюбёнае ме́сца; ме́сца, яко́е ча́ста наве́дваецца; *Is it your haunt?* Ты часта ходзіш сюды?

**haunt²** [hɔːnt] *v.* **1.** з'яўля́цца (*пра здань*) **2.** прыгнята́ць, не дава́ць спако́ю (*аб думках*) **3.** не дава́ць спако́ю (*каму-н.*), му́чыць, трыво́жыць (*каго-н.*)

**haunted** [ˈhɔːntɪd] *adj.* неспако́йны; устрыво́жаны, устурбава́ны

**haunting** [ˈhɔːntɪŋ] *adj.* які́ прасле́дуе, дайма́е, не дае́ спако́ю; надаку́члівы, неадчэ́пны (*пра мелодыю, рытм і да т.п.*)

**have** [hæv, həv] *v.* **(had) 1.** мець, вало́даць; *He has a dog.* У яго ёсць сабака. **2.** склада́цца; *The book has three parts.* Кніга складаецца з трох частак. **3.** мець, дэманстрава́ць пэ́ўную я́касць; *She had enough courage for this.* У яе хапіла мужнасці для гэтага. **4.** быць паві́нным, му́сіць; *I have a duty to care for the chil-*

*dren.* Я павінен паклапаціцца пра дзяцей. **5.** трымáць (*каго-н./што-н.*); *I couldn't see what he had in his hands.* Я не бачыў, што ён трымаў у руках. **6.** паклáсці (*што-н.*), трымáць, захóўваць (*што-н.*) у пэ́ўным мéсцы; *I soon had the butterfly in the net.* Я хутка злавіў матылька ў сетку. **7.** адчувáць, перанóсіць (*боль, хваробу*); *I have a toothache.* Мне баляць зубы. **8.** правóдзіць (*час*); **have a good time** дóбра (прыéмна) бáвіць час **9.** арганізóўваць падзéю; **have a party** арганізавáць, правéсці вечары́ну **10.** éсці, піць; **have breakfast/lunch/dinner** снéдаць/абéдаць/вячэ́раць **11.** рабíць (*што-н.*); **have a bath** прымáць вáнну **12.** нарадзíць (*дзіця*); *She has had a baby.* Яна нядаўна нарадзіла дзіця. **13.** атрымáць (*што-н.*); *She has just had a letter from him.* Яна толькі што атрымала ліст ад яго. **14.** клапацíцца (*пра каго-н.*); займáць/забаўляць (*каго-н.*) у сваíм дóме; **have guests** прымáць гасцéй **15.** наймáць, браць/прымáць на прáцу; **have smb. as designer** нанáць дызáйнера **16. : have smth. done** (*перадае дзеянне, утворанае згодна з ініцыятывай/жаданнем каго-н. або супраць яго волі*) сказáць/загадáць зрабíць што-н. для сябé; трáпіць у што-н., падпáсці пад што-н, звéдаць/перанéсці што-н. ад рукí кагó-н.; *I had the coat cleaned.* Мне пачысцілі паліто; *He had his money stolen.* У яго ўкралі грошы; **have one's hair done** зрабíць прычóску **17. : have smb. do smth.** прымýсіць кагó-н. зрабíць што-н.; зрабíць так, каб хто-н. зрабíў што-н.; *He always can have people listen.* Ён заўсёды можа зрабіць так, каб яго слухалі. **18. : have to + infinitive** (*азначае неабходнасць*) быць паві́нным, мýсіць; *He has to go.* Яму трэба ісці. **19.** *дапаможны дзеясл. для ўтварэння формаў* **Perfect**; *Have you had the news?* Вы ўжо чулі навіны?; **have (got) smth. against smb./smth.** не любíць кагó-н./што-н. з пэ́ўнай прычы́ны; **have smb. back** дазвóліць (*мужу, жонцы*) вярнýцца назáд пасля́ расстáння; **have smth. back** атрымáць што-н. назáд; **have (got) smth. on smb.** *infml* вéдаць што-н. дрэ́ннае пра кагó-н. ♦ **had better** лепш, лéпей; *You had better stay.* Вам лепш застацца; **have done with smth.** пакóнчыць з чым-н.; **have had it** *infml* быць у вéльмі дрэ́нным стáне; быць вéльмі стóмленым; не мець шáнцу вы́жыць, перажы́ць нéшта; быць не ў стáне цярпéць/вынóсіць (*што-н.*); **have it (that…)** сцвярджáць, заяўляць (*што-н.*); **have (got) it/that coming (to you)** атрымáць па заслýгах; **have it in for smb.** *infml* адкры́та не любíць кагó-н.; **have it in you (to do smth.)** *infml* быць здóльным/мець здóльнасці (зрабíць што-н.); **not having any** *infml* не жадáць слýхаць кагó-н./вéрыць камý-н.

**have in** [ˌhævˈɪn] *phr.v.* мець запáс чагó-н. (*у доме, на складзе і да т.п.*)

**have on** [ˌhævˈɒn] *phr.v.* **1.** быць апрáнутым (*у што-н.*) **2.** мець (*што-н.*) уклю́чаным, працýючым **3.** быць заня́тым (*чым-н.*) **4.** падманýць, ашукáць (*каго-н.*)

**have out** [ˌhævˈaʊt] *phr.v.* **1.** выдаляць, вымáць (*што-н.*) **2.** высвятляць пытáнне, выясня́ць аднóсіны, вы́светліць усё да канцá

**have up** [ˌhævˈʌp] *phr.v. infml* прыцягваць да адкáзнасці, да судá (*за што-н.*)

**haven** [ˈheɪvn] *n.* прытýлак; прыстáнішча, прыстáнак

**haven't** [ˈhævnt] *скар. ад* have not

**havoc** [ˈhævək] *n.* спусташэ́нне, разбурэ́нне; **play havoc (with)/wreck havoc (on)** спусташáць, разбурáць; сéяць смýту

**hawk**[1] [hɔːk] *n.* **1.** *zool.* я́страб **2.** драпéжнік (*таксама пра чалавека*)

**hawk**[2] [hɔːk] *v.* палявáць з я́страбам абó сóкалам; хапáць здабы́чу на лятý, лавíць насякóмых (*пра птушак*); налятáць, нападáць (*на каго-н.*)

**hawk**[3] [hɔːk] *v.* адкáшліваацца; адхáркваацца

**hawk**[4] [hɔːk] *v.* гандлявáць уразнóс; гандлявáць на вýліцах; распаўсю́джваць, разнóсіць (*чуткі, плёткі і да т.п.*); **hawk news about** разнóсіць вéсткі

**hawker** [ˈhɔːkə] *n.* вýлічны гандля́р

**hawthorn** [ˈhɔːθɔːn] *n. bot.* глог

**hay** [heɪ] *n.* **1.** сéна **2.** *AmE, infml* невялíкая сýма грóшай ♦ **make hay while the sun shines** ≅ касí, касá, пакýль расá; гні дрэ́ва, пакýль маладóе

**hay fever** [ˈheɪfiːvə] *n. med.* сéнная ліхамáнка

**haymaking** [ˈheɪmeɪkɪŋ] *n.* сенакóс

**haystack** [ˈheɪstæk] *n.* стог сéна, тарпá, торп, сцíрта

**hazard**[1] [ˈhæzəd] *n.* **(to)** ры́зыка; небяспéка; **hazard lights** авары́йная сігналізáцыя

**hazard**[2] [ˈhæzəd] *v.* **1.** асмéльвацца, адвáжвацца; асмéліцца вы́казаць прапанóву **2.** *fml* рызыкавáць, стáвіць на кáрту

**hazardous** [ˈhæzədəs] *adj.* рызыкóўны; небяспéчны

**haze** [heɪz] *n.* **1.** смугá; тумáн **2.** ня́яснасць рóзуму абó дýмкі

**hazel**[1] [ˈheɪzl] *n.* арэ́шнік, ляшчы́ннік, ляшчэ́ўнік

**hazel²** [ˈheɪzl] *adj.* све́тла-кары́чневы, ка́ры (*пра вочы*)

**hazelnut** [ˈheɪzlnʌt] *n.* фунду́к, лясны́ арэ́х

**hazily** [ˈheɪzɪli] *adv.* тума́нна, няя́сна, невыра́зна, цьмя́на; імглі́ста

**haziness** [ˈheɪzinəs] *n.* невыра́знасць, няпэ́ўнасць, неакрэ́сленасць

**hazy** [ˈheɪzi] *adj.* **1.** тума́нны, затума́нены; няя́сны, засла́ны мгло́й; **hazy weather** пахму́рнае надво́р'е; **hazy wood** лес, аху́таны мгло́й; **a hazy view** тума́нныя да́лі **2.** няя́сны, неакрэ́слены, няпэ́ўны; *I have a hazy idea…* Мне здаецца… **3.** (*пра чалавека*) няўпэ́ўнены, збянтэ́жаны, паста́ўлены ў тупі́к

**H-bomb** [ˈeɪtʃbɒm] *n.* = **hydrogen bomb**

**he** [hiː, hi, hɪ] *pron.* ён

**head¹** [hed] *n.* **1.** галава́; верх, пача́так; **from head to foot/toe** па ўсі́м це́ле, з галавы́ да ног; **the head of the river** пача́так ракі́ **2.** кіраўні́к; правады́р; **the head of the government** кіраўні́к ура́да; **be at the head (of)** узнача́льваць; быць на чале́ (*чаго-н.*); **over smb.'s head** на вышэ́йшай паса́дзе, чым хто-н. **3.** ро́зум, здо́льнасць; *Use your head before making such a serious decision.* Падумай добра перад тым, як прымаць такое сур'ёзнае рашэнне. **4.** чалаве́к; **the crowned heads** каранава́ныя асо́бы ♦ **a/per head** на ко́жнага чалаве́ка; **above/over smb.'s head** зана́дта склада́ны для разуме́ння; **bang/knock smb.'s heads together** *infml* рашу́чымі ме́рамі прыміры́ць тых, хто сва́рыцца; **be banging one's head against a brick wall** *infml* упа́рта рабі́ць што-н., асаблі́ва то́е, што не дасць стано́ўчага вы́ніку; **be/stand head and shoulders above smb./smth.** быць на галаву́ (непараўна́льна) вышэ́йшым за каго́-н./што-н.; **bite/snap smb.'s head off** *infml* зло́сна крыча́ць на каго́-н., асаблі́ва без прычы́ны; **bury/hide one's head in the sand** хава́ць галаву́ ў пясо́к, прытры́мліваццa стра́усавай палі́тыкі; **do smb.'s head in** *BrE, infml* саро́міць, бянтэ́жыць каго́-н.; раздражня́ць каго́-н.; **do smth. standing on one's head** *infml* рабі́ць што-н. лёгка, без вялі́кіх нама́ганняў; **not to get one's head round smth.** *BrE, infml* быць не здо́льным зразуме́ць што-н.; **get one's head down** *infml* засну́ць; паспа́ць; **give smb. their head** дазво́ліць каму́-н. рабі́ць то́е, што хо́чацца, не спыня́ць, не перашкаджа́ць; **go head to head with smb.** дзе́йнічаць ра́зам/супо́льна з кім-н.; **go to one's head** (*пра алкаголь*) уда́рыць у галаву́; **have a good head on one's shoulders** быць разу́мным чалаве́кам, мець све́тлую галаву́; **have a head for smth.** 1) быць здо́льным да чаго́-н.; *He has a head for business.* У яго ёсць здольнасці да бізнесу. 2) не перано́сіць чаго́-н.; *My mother doesn't have a head for heights.* Мая маці баіцца вышыні; **have one's head in the clouds** луна́ць у во́блаках/абло́ках; **have one's head screwed on (the right way)** *infml* быць разу́мным чалаве́кам; **head first** 1) упе́рад галаво́ю 2) не паду́маўшы до́бра; **head over heels in love** быць па ву́шы закаха́ным; **heads will roll (for smth.)** гало́вы паляця́ць (за што-н.); **hold one's head high/hold up one's head** высо́ка трыма́ць галаву́; **keep/get one's head down** стара́цца не прыця́гваць да сябе́ ўва́гу; **keep one's head/keep a cool head** застава́цца спако́йным у склада́най сітуа́цыі; **keep one's head above water** ле́дзьве зво́дзіць канцы́ з канца́мі; **laugh/scream one's head off** *infml* смяя́цца/крыча́ць шмат і ве́льмі гу́чна; **lose one's head** згубі́ць галаву́; **make head or tail of smth.** зразуме́ць што-н., разабра́цца ў чым-н.; **out of/off your head** *BrE, infml* звар'яце́лы; які́ сябе́ не кантралю́е з-за ўздзе́яння алкаго́лю ці нарко́тыкаў; **put heads together** ра́іцца, ра́дзіцца; суме́сна кансульта-ва́цца, абмяркоўваць; **stand/turn smth. on its head** перавярну́ць што-н. з ног на галаву́; **turn smb.'s head** закруці́ць галаву́ каму́-н. (*пра поспех*)

**head²** [hed] *v.* **1. (for)** накіро́ўвацца, трыма́ць курс **2.** узнача́льваць, кірава́ць **3.** стая́ць напе́радзе, быць пе́ршым (*у спісе, чарзе і да т.п.*) **4.** пачына́ць, быць загало́ўкам **5.** забіва́ць/адбіва́ць мяч галаво́й (*у футболе*) ♦ **be heading/headed for smth.** наклі́ка́ць (*бяду*), напро́швацца (*на непрыемнасці*)

**head off** [ˌhedˈɒf] *phr.v.* **1.** паказа́ць пра́вільную даро́гу (*каму-н.*); накірава́ць у пра́вільным напра́мку (*каго-н.*) **2.** прадухіля́ць, адхіля́ць; папярэ́джваць

**head up** [ˌhedˈʌp] *phr.v.* узнача́льваць, кірава́ць

**headache** [ˈhedeɪk] *n.* **1.** галаўны́ боль; *I have a splitting headache.* У мяне расколваецца галава. **2.** турбо́та, кло́пат

**headband** [ˈhedbænd] *n.* галаўна́я павя́зка, сту́жка

**headdress** [ˈheddres] *n.* галаўны́ ўбор

**headgear** [ˈhedgɪə] *n.* галаўны́ ўбор

**heading** [ˈhedɪŋ] *n.* **1.** загало́вак **2.** ру́брыка, раздзе́л

**headland** [ˈhedlənd] *n.* мыс

**headless** [ˈhedləs] *adj.* абезгало́ўлены ♦ **run around like a headless chicken** рабі́ць што-н. ве́льмі акты́ўна, але́ неарганізава́на, таму́ непаспяхо́ва

**headlight** [ˈhedlaɪt] *n.* **1.** фа́ра (*аўтамабі́ля*) **2.** святло́ ад фа́ры (*аўтамабі́ля*); **full/dimmed headlights** да́льняе/блі́зкае святло́

**headline** [ˈhedlaɪn] *n.* **1.** загало́вак (*газетнага артыкула, асабліва на першай старонцы*) **2.** каро́ткі змест апо́шніх наві́н (*на радыё, тэлебачанні*) ♦ **grab/hit/make the headlines** тра́піць у загало́ўкі газе́т; шыро́ка асвятля́цца ў дру́ку; вы́клікаць сенса́цыю

**headlong**[1] [ˈhedlɒŋ] *adj.* **1.** неабду́маны; **a headlong decision** неабду́манае рашэ́нне **2.** бу́рны, нястры́мны; шалёны, імклі́вы, імпэ́тны; **a headlong flight** пані́чныя ўцёкі

**headlong**[2] [ˈhedlɒŋ] *adv.* **1.** галаво́й упе́рад **2.** неабду́мана, стрымгало́ў **3.** шалёна, імклі́ва, імпэ́тна; *He rushed headlong into danger.* Ён кінуўся насустрач небяспецы на скрут галавы.

**headmaster** [ˌhedˈmɑːstə] *n.* дырэ́ктар шко́лы (*асабліва прыватнай*)

**headmistress** [ˌhedˈmɪstrəs] *n.* дырэ́ктар шко́лы (*пра жанчыну*)

**head-on** [ˌhedˈɒn] *adj.* **1.** лабавы́, франта́льны; **a head-on collision** лабаво́е сутыкне́нне **2.** у лоб; прамы́; **a head-on confrontation** прамо́е супрацьстая́нне/процістая́нне

**headphones** [ˈhedfəʊnz] *n. pl.* наву́шнікі

**headquarters** [ˌhedˈkwɔːtəz] *n.* (*pl.* **headquarters**) **1.** штаб **2.** цэнтр

**headroom** [ˈhedruːm] *n.* **1.** прасве́т (*аркі, моста*); вышыня́ тунэ́ля або́ мо́ста над даро́гай **2.** уну́траная вышыня́ (*кузава аўтамабіля*)

**headscarf** [ˈhedskɑːf] *n.* (*pl.* **-ves**) ху́стка

**headset** [ˈhedset] *n.* наву́шнікі з мікрафо́нам

**head start** [ˌhedˈstɑːt] *n.* **(on/over)** перава́га над кім-н. (*перад пачаткам чаго-н.*)

**headstone** [ˈhedstəʊn] *n.* надмагі́льны ка́мень, надмагі́льная пліта́

**headstrong** [ˈhedstrɒŋ] *adj.* свяво́льны, упа́рты

**head-to-head**[1] [ˌhedtəˈhed] *n.* барацьба́, бой урукапа́шную; сутыкне́нне твар у твар

**head-to-head**[2] [ˌhedtəˈhed] *adj.* **1.** ама́ль ро́ўны, на ро́ўных (*пра спаборніцтва, схватку і да т.п.*) **2.** блі́зкі, рукапа́шны (*пра бой*)

**headway** [ˈhedweɪ] *n.* рух напе́рад, прагрэ́с ♦ **make headway** пераадо́льваючы ця́жкасці, ру́хацца напе́рад

**headwind** [ˈhedwɪnd] *n.* сустрэ́чны ве́цер; ве́цер у твар

**heady** [ˈhedi] *adj.* **1.** мо́цны; п'янкі́; **heady beer** мо́цнае пі́ва; **the heady air of spring** п'янко́е веснаво́е паве́тра **2.** паспе́шлівы, гара́чы; бязду́мны (*пра чалавека*)

**heal** [hiːl] *v.* **1. (up)** лячы́ць, зале́чваць; заго́йваць; заго́йвацца **2. : heal smb. (of smth.)** *fml* выле́чваць каго́-н. (ад чаго́-н.); супако́йваць, суціша́ць каго́-н. **3.** пакла́сці кане́ц чаму́-н.; пале́гчыць што-н.

**healer** [ˈhiːlə] *n.* **1.** ле́кар; знаха́р; знаха́рка **2.** гаю́чы, ле́кавы сро́дак; сро́дак для паля́гчэ́ння склада́най сітуа́цыі

**healing** [ˈhiːlɪŋ] *adj.* гаю́чы; лячэ́бны, вырата́вальны

**health** [helθ] *n.* **1.** здаро́ўе; **be in good health** мець до́брае здаро́ўе **2.** пра́ца па забеспяче́нні медыцы́нскага абслуго́ўвання **3.** дабрабы́т, даста́так, працвіта́нне; жыццяздо́льнасць; **the economic health of the country** эканамі́чны ро́сквіт краі́ны

**health centre** [ˈhelθˌsentə] *n. BrE* палікль́ніка; медыцы́нскі цэнтр

**health food** [ˈhelθˌfuːd] *n.* здаро́вая е́жа, дыеты́чныя праду́кты, здаро́вае харчава́нне

**health insurance** [ˌhelθɪnˈʃʊərəns] *n.* страхава́нне здаро́ўя, страхо́ўка

**health resort** [ˈhelθrɪˌzɔːt] *n.* куро́рт

**health service** [ˈhelθˌsɜːvɪs] *n.* медыцы́нскае абслуго́ўванне, ахо́ва здаро́ўя

**health spa** [ˈhelθspɑː] *n.* куро́рт (*асабліва з мінеральнымі крыніцамі*)

**healthy** [ˈhelθi] *adj.* здаро́вы (*у розных знач.*); **have a healthy colour** мець квітне́ючы вы́гляд; **a healthy sign** до́брая пры́ме́та; **healthy air** здаро́вае паве́тра; **a healthy way of life** здаро́вы лад жыцця́

**heap**[1] [hiːp] *n.* **1. (of)** ку́ча, гру́да **2.** *pl.* **heaps** *infml* про́цьма, пло́йма **3.** *infml* стары́ аўтамабі́ль, драндуле́т, калыма́га ♦ **at the top/bottom of the heap** на высо́кай/ні́зкай пазі́цыі ў структу́ры арганіза́цыі або́ грама́дства; **collapse/fall in a heap** упа́сці ўсім цяжа́рам і не варушы́цца; **heaps better/more/older** *BrE, infml* зна́чна ле́пшы/бо́льшы/старэ́йшы

**heap**[2] [hiːp] *v.* **1. (up)** нагрува́шчваць; зва́льваць у гру́ду **2. (on, with)** нагружа́ць, напаўня́ць **3. (on, with)** засыпа́ць; зава́льваць; **heap praises on smb.** захва́льваць, празме́рна хвалі́ць каго́-н.; **heap smb. with presents** засыпа́ць каго́-н. падару́нкамі

**hear** [hɪə] *v.* **(heard) 1.** чуць **2.** слу́хаць; **hear from smb.** атрыма́ць ліст, ве́стку ад каго́-н.; **hear of smb./smth.** даве́дацца пра каго́-н./што-н. ♦ **Hear! Hear!** Слу́шна! Пра́вільна!

(*перадае згоду з чалавекам, які выступае*); **hear tell (of smth.)** *dated or infml* даве́дацца (пра што-н.) ад і́ншых людзе́й, пачу́ць (што-н. ад каго́-н.)
**hear out** [ˌhɪər'aʊt] *phr.v.* даслу́хаць (*каго-н.*) да канца́
**heard** [hɜːd] *past, p.p.* → **hear**
**hearer** ['hɪərə] *n.* слуха́ч; слуха́чка
**hearing** ['hɪərɪŋ] *n.* **1.** слых; чу́тнасць **2.** слу́ханне спра́вы (*у судзе*) **3.** слу́ханне, выслу́хванне; **give smb. a hearing** вы́слухаць каго́-н., даць вы́казацца ♦ **in/within (smb.'s) hearing** у ме́жах чу́тнасці
**hearsay**[1] ['hɪəseɪ] *n.* чу́ткі; **by/from hearsay** па чу́тках; **take smth. on hearsay** прыня́ць што-н. на ве́ру
**hearsay**[2] ['hɪəseɪ] *adj.* заснава́ны на чу́тках; вядо́мы па чу́тках; **hearsay knowledge** інфарма́цыя з другі́х рук; ве́данне па чу́тках
**hearse** [hɜːs] *n.* катафа́лк; пахава́льная калясні́ца
**heart** [hɑːt] *n.* **1.** сэ́рца; душа́ **2.** пачу́цці, каха́нне, любо́ў **3.** сярэ́дняя ча́стка, сярэ́дзіна; **the heart of the forest** не́тры ле́су **4.** са́мая ва́жная ча́стка (*чаго-н.*), су́тнасць; **the heart of the matter** су́тнасць спра́вы **5.** *pl.* **hearts** чы́рвы (*карты*) ♦ **at heart** у глыбіні́ душы́; **be sick at heart** 1) адчува́ць мло́снасць/млосць 2) тужы́ць, нудзі́цца; **break smb.'s heart** разбіць чыё-н. сэ́рца; мо́цна засмуці́ць, расхваля́ваць каго́-н.; **by heart/off by heart** на па́мяць; **close/dear/near to smb.'s heart** блі́зкі для чыйго́-н. сэ́рца; **from the (bottom of one's) heart** з глыбіні́ сэ́рца, шчы́ра; **give/lose one's heart to smb.** адда́ць сваё сэ́рца каму́-н., пакаха́ць каго́-н.; **give smb. (fresh) heart** падбадзёрыць, падтрыма́ць каго́-н.; **have a heart!** злі́туйцеся!; змі́луйцеся!; **have a heart of gold** мець залато́е сэ́рца, быць ве́льмі до́брым чалаве́кам; **have a heart of stone** мець каме́ннае сэ́рца, не шкадава́ць ніко́га; **have one's heart in one's mouth** забая́цца, спужа́цца, спало́хацца; ≅ душа́ ў пя́тках (*пра стан*); **have one's heart in smth.** з энтузія́змам ста́віцца да чаго́-н.; **have one's heart in the right place** мець до́брыя наме́ры; **heart and soul** усёй душо́й; стара́нна, дба́йна, руплі́ва; **heart bleeds for smb.** сэ́рца крывёю абліва́ецца пры ду́мцы пра каго́-н.; **lose heart** па́даць ду́хам, тра́ціць надзе́ю, адча́йвацца; **make smb.'s heart leap** прыму́сіць чыё-н. сэ́рца калаці́цца; **not have the heart to do smth.** быць нязды́льным, не адва́жвацца зрабі́ць што-н.; **pour out/open one's heart to smb.** адкры́ць сваю́ душу́, пачу́цці каму́-н.; **set one's heart on smth./have one's heart set on smth.** імкну́цца да чаго́-н., мо́цна пра́гнуць чаго́-н.; **take heart from smth.** чэ́рпаць му́жнасць у чым-н.; **take smth. to heart** прыма́ць што-н. блі́зка да сэ́рца; **tear/rip the heart out of smth.** пашко́дзіць/сапсава́ць са́мую ва́жную ча́стку чаго́-н.; **to one's heart's content** до́сыць, удо́сталь, уво́лю, ко́лькі душа́ жада́е; **with all one's heart** ад усёй душы́, шчы́ра, сардэ́чна; *He is* ***a man after my own heart***. Гэты чалавек мне даспадобы; *His* ***heart sank***. ≅ Яго душа ў пятках апынулася.
**heartache** ['hɑːteɪk] *n.* душэ́ўны боль, паку́ты; го́ра; сму́так
**heart attack** ['hɑːtəˌtæk] *n.* сардэ́чны пры́ступ
**heartbeat** ['hɑːtbiːt] *n.* пульса́цыя сэ́рца
**heartbreak** ['hɑːtbreɪk] *n.* вялі́кае го́ра, глыбо́кі сму́так, душэ́ўныя паку́ты
**heartbreaking** ['hɑːtbreɪkɪŋ] *adj.* балю́чы, журбо́тны, які надрыва́е душу́
**heartbroken** ['hɑːtbrəʊkən] *adj.* прыбі́ты го́рам; з разбі́тым сэ́рцам
**heartburn** ['hɑːtbɜːn] *n.* пяко́тка, пячы́йка
**hearten** ['hɑːtn] *v.* ра́даваць; падбадзёрваць; натхня́ць
**heart failure** ['hɑːtˌfeɪljə] *n.* пара́ліч сэ́рца, спыне́нне сэ́рца; сардэ́чная недастатко́васць або́ сла́басць
**heartfelt** ['hɑːtfelt] *adj.* сардэ́чны, шчы́ры; *She gave him her heartfelt thanks.* Яна шчыра падзякавала яму.
**hearth** [hɑːθ] *n.* **1.** каме́нная плiта́ або́ цэ́гла пе́рад камі́нам **2.** *lit.* ха́тні агме́нь; ро́дная ха́та; **long for hearth and home** сумава́ць без ро́днага кута́
**heartily** ['hɑːtɪli] *adv.* **1.** сардэ́чна, шчы́ра; прыя́зна **2.** ве́льмі мо́цна; *I am heartily sick of it.* Мне гэта смяротна надакучыла. **3.** стара́нна, з энтузія́змам; **eat heartily** е́сці з апеты́там; **laugh heartily** смяя́цца ад душы́
**heartland** ['hɑːtlænd] *n.* (*таксама* **heartlands**) цэнтра́льная або́ са́мая ва́жная ча́стка краі́ны, кра́ю і да т.п.
**heartless** ['hɑːtləs] *adj.* бессардэ́чны, бязду́шны; бязлі́тасны, жо́рсткі
**heart murmur** ['hɑːtˌmɜːmə] *n. med.* сардэ́чны шум, шум у сэ́рцы
**heart-rending** ['hɑːtrendɪŋ] *adj.* ве́льмі су́мны; **a heart-rending book** ве́льмі су́мная кні́га
**heartstrings** ['hɑːtstrɪŋz] *n. pl.* найглыбе́йшыя пачу́цці; сардэ́чныя стру́ны

**heart-to-heart** [ˌhɑːttəˈhɑːt] *adj.* інты́мны, сардэ́чны, шчы́ры; **a heart-to-heart talk** задушэ́ўная размо́ва

**hearty** [ˈhɑːti] *adj.* **1.** шчы́ры, сардэ́чны; **a hearty welcome** гасці́нны прыём **2.** вялі́кі, бага́ты; **have a hearty breakfast** сы́тна/до́бра паснéдаць

**heat**[1] [hiːt] *n.* **1.** гарачыня́; спёка, спяко́та; **summer heat** лéтняя спёка; **heat haze** ма́рыва, мро́іва **2.** гара́чка, павы́шаная тэмперату́ра; **fever heat** гара́чка; ліхама́нка; **blood heat** нарма́льная тэмперату́ра цéла **3.** тэмперату́ра (*звыч. высокая*); цяпло́, цеплыня́ (*у памяшканні, машыне і да т.п.*); *What is the heat of the water today?* Якая сёння тэмпература вады?; *Today is 35 degrees of heat.* Сёння 35 градусаў цяпла; **moderate heat** умéранае цяпло́; *Cook in the heat of the oven at 200°.* Гатуйце ў духоўцы пры тэмпературы 200°. **4.** ацяплéнне **5.** запа́л, імпэ́т, заўзя́тасць; гара́чнасць; **heat of youth** юна́цкі запа́л; **do smth. in the heat of the moment** зрабі́ць што-н. з гара́чкі/пагарачы́ўшыся **6.** на́ціск; прыму́с; **put the heat on smb.** наці́снуць на каго́-н., прыпéрці каго́-н. да сцяны́ **7.** *sport* ра́ўнд (*бокс*); гіт; забéг, заéзд або́ заплы́ў на пэ́ўную дыста́нцыю; **a final heat** фіна́льны забéг; **a dead heat** аднача́со́вы фі́ніш

**heat**[2] [hiːt] *v.* награва́ць; награва́цца; ацапля́ць
 **heat up** [ˌhiːtˈʌp] *phr.v.* **1.** ажыўля́цца, узбуджа́цца **2.** награва́ць (*што-н.*)

**heated** [ˈhiːtɪd] *adj.* **1.** узбу́джаны, разгара́чаны (*пра чалавека*); гара́чы, заўзя́ты (*пра спрэчку*) **2.** нагрэ́ты (*пра пакой, будынак і да т.п.*)

**heater** [ˈhiːtə] *n.* абаграва́льнік; награва́льны прыбо́р; радыя́тар; калары́фер; печ

**heath** [hiːθ] *n.* пустэ́ча, пу́стка ♦ **one's native heath** радзі́ма, ро́дны кут

**heath bell** [ˈhiːθbel] *n. bot.* квéтка вéрасу

**heathberry** [ˈhiːθbri] *n.* балo̓тная я́гада

**heathen**[1] [ˈhiːðn] *n.* **1.** язы́чнік; язы́чніца; пага́нец **2.** неадукава́ны чалавéк

**heathen**[2] [ˈhiːðn] *adj.* язы́чніцкі, пага́нскі; **the heathen** язы́чнікі, пага́нцы

**heather** [ˈheðə] *n.* **1.** *bot.* вéрас **2.** пу́стка, паро́слая вéрасам

**Heathrow** [ˌhiːθˈrəʊ] *n.* Хітро́ў (*міжнародны аэрапорт у Лондане*)

**heating** [ˈhiːtɪŋ] *n.* ацяплéнне; **central heating** цэнтра́льнае ацяплéнне

**heatstroke** [ˈhiːtstrəʊk] *n.* цеплавы́ ўдар

**heatwave** [ˈhiːtweɪv] *n.* перы́яд мо́цнай спяко́ты

**heave** [hiːv] *v.* **(heaved** *or* **hove) 1.** падыма́ць з ця́жкасцю, выця́гваць; **heave up the anchor** падыма́ць я́кар; **heave a boat up on the shore** выця́гваць ло́дку на бéраг **2. (with)** узды-ма́цца і апуска́цца; *His chest heaved with breathing.* Грудзі яго ўздымаліся ў такт дыханню. **3.** уздыха́ць; стагна́ць **4.** рабі́ць ірво́тныя ру́хі ♦ **heave into sight/view** *fml* паказа́цца на даляглядзе, з'яві́цца ў по́лі зро́ку

**heaven** [ˈhevn] *n.* нéба; нябёсы ♦ **(Good) Heavens!/Heavens above!** *infml* Бо́жа мой!; О Бо́жухна!; **For heaven's sake!** На ла́ску бо́жую!; **the heavens opened** пача́ўся мо́цны дождж

**heavenly** [ˈhevnli] *adj.* **1.** бо́жы; свяшчэ́нны **2.** нябéсны; які́ знахо́дзіцца на/у нéбе; **heavenly bodies** нябéсныя цéлы **3.** *infml* чаро́ўны, цудо́ўны, дзіво́сны; *What heavenly weather!* Якое цудоўнае надвор'е!

**heavily** [ˈhevɪli] *adv.* **1.** ця́жка; **heavily loaded** ця́жка нагру́жаны; **lean heavily upon smb.** ця́жка абапéрціся на каго́-н. **2.** мару́дна, з ця́жкасцю; **walk heavily** ісці́/ру́хацца з ця́жкасцю **3.** мо́цна, інтэнсі́ўна; шмат; **heavily underlined** падкрэ́слены то́ўстай ры́сай; **suffer heavily** мо́цна пацярпéць

**heaviness** [ˈhevɪnəs] *n.* **1.** ця́жкасць **2.** гру́зласць, няўклю́днасць; **heaviness of movement** няўклю́днасць ру́хаў **3.** мару́днасць; вя́ласць **4.** дэпрэ́сія, прыгнéчаны стан; **a sense of heaviness** ця́жкае пачуццё

**heavy**[1] [ˈhevi] *n.* **1.** *infml* ахо́ўнік, выкіда́ла; грамі́ла **2.** *ScotE* мо́цнае пі́ва

**heavy**[2] [ˈhevi] *adj.* **1.** ця́жкі (*у розных знач.*); **a heavy fall** ця́жкае падзéнне; **a heavy suitcase** ця́жкі чамада́н; **heavy food** ця́жкая éжа; **heavy work** ця́жкая пра́ца **2.** вялі́кі; мо́цны; высо́кі; **a heavy blow** мо́цны ўдар; **a heavy eater** пра́гны да яды́, абжо́ра; **a heavy sleep** мо́цны/глыбо́кі сон; **a heavy smoker** заця́ты курэ́ц; **a heavy sound** мо́цны гук; **heavy beer** мо́цнае пі́ва; **heavy rain** мо́цны дождж; **heavy traffic** вялі́кі рух; **a heavy price** высо́кая цана́ **3.** масі́ўны; таўсма́ты; **a heavy face** таўсма́ты твар; **a heavy brooch** масі́ўная бро́шка **4.** то́ўсты, гру́бы; **heavy fabric** то́ўстае/гру́бае сукно́ **5. (with)** ця́жкі, абцяжа́раны; *The bush was heavy with blackberries.* Галінкі ажыны гнуліся пад цяжарам ягад. **6.** магу́тны (*пра машыны*); **a heavy truck** магу́тны грузаві́к **7.** загру́жаны, які́ патрабу́е шмат пра́цы або́ дзéйнасці; **a heavy day** ця́жкі/загру́жаны дзень **8. (on)** *infml* які́ ўжыва́е шмат (*чаго-н.*); *Older cars are heavy on petrol.* Старыя машыны спажываюць шмат паліва. **9.** ну́дны, нецікавы, ця́жкі для ўспрыма́ння; **a**

**heavy book** цяжкая для ўспрымання/нецікавая кніга **10.** небяспечны (*пра мора, акіян*) **11.** гарачы, душны (*пра паветра, надвор'е*) **12.** вязкі, гліністы (*пра глебу, грунт*) **13.** строгі, суровы (*пра чалавека*) ♦ **get heavy** *infml* зрабіцца вельмі сур'ёзным; **heavy going** той, з кім цяжка мець справу або каго цяжка зразумець; **a heavy heart** пачуццё моцнага смутку; **a heavy silence/atmosphere** цяжкае маўчанне/цяжкая атмасфера; **have a heavy hand** 1) быць нязграбным, няспрытным 2) быць суровым у адносінах да людзей; **make heavy weather of smth.** уяўляць або паказваць што-н. больш складаным, чым гэта ёсць на самай справе

**heavy**[3] [ˈhevi] *adv.* **:** ♦ **hang/lie heavy (on/in)** непакоіць, турбаваць

**heavy-duty** [ˌheviˈdjuːti] *adj.* **1.** трывалы, звышмоцны; прызначаны для цяжкага рэжыму работы (*пра адзенне, шыны машыны і да т.п.*) **2.** *infml* вельмі сур'ёзны, значны; *I think you need some heavy-duty advice on this matter.* Думаю, табе патрэбна добрая парада ў гэтай справе.

**heavy-handed** [ˌheviˈhændɪd] *adj.* **1.** жорсткі, суровы, дэспатычны **2.** няспрытны, няўмелы, няўклюдны, нязграбны, нехлямяжы

**heavy-hearted** [ˌheviˈhɑːtɪd] *adj.* засмучаны, журботны, маркотны, тужлівы, сумны

**heavyweight** [ˈheviweɪt] *n.* **1.** баксёр цяжкай вагі **2.** чалавек/рэч, які/якая мае вагу, большую, чым звычайна або патрэбна **3.** вельмі важная асоба, арганізацыя, рэч

**Hebraic** [hiˈbreɪɪk] *adj.* старажытнаяўрэйскі, які адносіцца да старажытнаяўрэйскай мовы або іудзеяў

**Hebrew**[1] [ˈhiːbruː] *n.* **1.** яўрэй; яўрэйка **2.** іўрыт

**Hebrew**[2] [ˈhiːbruː] *adj.* яўрэйскі

**heck** [hek] *n., interj. infml* ліха на яго!; **a heck of a long time** страшэнна доўга ♦ **for the heck of it** *infml* дзеля забавы; без мэты, проста так; **what the heck!** *infml* якога д'ябла!

**heckle** [ˈhekl] *v.* перапыняць прамоўцу пытаннямі або грубымі заўвагамі

**hectare** [ˈhekteə,ˈhektɑː] *n.* гектар (*10 000 кв. метраў або 2,5 акра*)

**hectic fever** [ˌhektɪkˈfiːvə] *n. med.* сухотная гарачка

**he'd** [hiːd, hid] *скар. ад* **1.** he had **2.** he would

**hedge**[1] [hedʒ] *n.* **1.** жывая агароджа **2. (against)** страхоўка, гарантыя; **a hedge against inflation** гарантыя ад інфляцыі

**hedge**[2] [hedʒ] *v.* **1.** увільваць, ухіляцца (*ад рызыкі, адказнасці, прамога адказу і да т.п.*) **2.** адгароджваць **3. (against)** страхавацца сябе (*ад праблем, страты і да т.п.*) **4. (about/around, with)** *fml* ставіць/узводзіць перашкоды, замінаць ♦ **hedge one's bets** памяншаць рызыку страты або памылкі спосабам двайнога закладу

**hedge in** [ˌhedʒˈɪn] *phr.v.* акружаць (*каго-н./што-н. чым-н.*)

**hedgehog** [ˈhedʒhɒg] *n.* вожык

**hedgerow** [ˈhedʒrəʊ] *n.* жывая агароджа; палеахоўная паласа

**hedonism** [ˈhiːdənɪzəm] *n.* геданізм, прага асалоды

**heed**[1] [hiːd] *n.* увага; клопат; асцярожнасць ♦ **give/pay heed (to), take heed (of)** надаваць пільную ўвагу (*каму-н./чаму-н.*)

**heed**[2] [hiːd] *v.* звяртаць увагу, улічваць; асцерагацца

**heedful** [ˈhiːdfl] *adj.* **(of)** які прымае (*што-н.*) да ўвагі, асцярожны, абачлівы, пільны; **heedful of advice** уважны да парады

**heedless** [ˈhiːdləs] *adj.* **(of)** неасцярожны, неабачлівы, бяздумны, нядбайны

**heel**[1] [hiːl] *n.* **1.** пята **2.** абцас ♦ **be at/on smb.'s heels** даганяць каго-н., гнацца па пятах за кім-н., неадступна праследаваць каго-н.; **bring smb. to heel** прымусіць каго-н. падпарадкоўвацца; **come to heel** 1) (*пра чалавека*) слухацца (*каго-н.*), бездакорна падпарадкоўвацца (*каму-н.*) 2) (*пра сабаку*) падысці блізка да чалавека, які паклікаў; **take to one's heels** уцячы, пусціцца наўцёкі; **turn/spin on your heel** рэзка/крута павярнуцца; **under the heel of smb.** *lit.* пад чыім-н. прыгнётам, у каго-н. пад пятой/абцасам

**heel**[2] [hiːl] *v.* **1.** ставіць абцас або набойку **2. (over)** хіліцца, нахіляцца (*пра лодку*)

**hefty** [ˈhefti] *adj.* **1.** вялікі, здаравенны (*пра чалавека*) **2.** даволі вялікая, немалая (*пра суму грошай*) **3.** моцны, дужы

**hegemony** [hɪˈdʒeməni] *n. fml* гегемонія

**heifer** [ˈhefə] *n.* цялушка

**height** [haɪt] *n.* **1.** вышыня **2.** рост **3.** узвышша **4. (of)** верх, вышэйшая ступень; апагей; **the height of glory** вяршыня/апагей славы

**heighten** [ˈhaɪtn] *v.* узнімаць; узнімацца; уздымаць; уздымацца; узмацняць; узмацняцца

**heir** [eə] *n.* **(to, of)** спадчыннік, наследнік, спадкаемца

**heiress** [ˈeəres] *n.* **(to)** спадчынніца, наследніца

**heirloom** [ˈeəluːm] *n.* спадчынная рэч; фамільная каштоўнасць

**heist**[1] [haɪst] *n. infml* грабёж, рабаванне, крадзёж з узломам

**heist**[2] [haɪst] *v. infml* учыняць рабунак, крадзеж з узломам

**held** [held] *past, p.p.* → **hold**[2]

**helicopter** [ˈhelɪkɒptə] *n.* верталёт; **by helicopter** верталётам

**heliport** [ˈhelipɔːt] *n.* аэрадром/станцыя для верталётаў

**helium** [ˈhiːliəm] *n. chem.* гелій

**hell**[1] [hel] *n.* **1.** пекла **2.** складаная сітуацыя; пакута ♦ **all hell broke loose** *infml* падняўся страшэнны вэрхал; пачаўся сапраўдны канец свету; **beat/kick/knock (the) hell out of smb./smth.** *infml* моцна аддубасіць каго-н., збіць каго-н. на горкі яблык; **(just) for the hell of it** *infml* дзеля забавы; без мэты, проста так; **from hell** *infml* вельмі непрыемны (*пра чалавека або рэч*), самы горшы, які толькі можна ўявіць; **get the hell out of…** *infml* збегчы, змыцца, уцячы; **give smb. hell** *infml* даць каму-н. прачуханку; **go to hell in a handbasket** *AmE, infml* ≅ улезці, як сучка ў збан/кола; уліпнуць, як муха ў саладуху; у балота ўскочыць; трапіць у нерат (ні ўзад, ні ўперад); **hell for leather** *BrE, infml, dated* на злом галавы; **hell is paved with good intentions** ≅ добрымі намерамі дарога ў пекла вымашчана; **(come) hell or high water** ≅ ці пан ці прапаў; **like hell** *infml* моцна, шалёна, пад'ябальску; **work like hell** працаваць як у пекле; *I **miss you like hell.*** Я моцна сумую па табе; **play (merry) hell with smb./smth.** *BrE, infml* разбурыць дашчэнту; сапсаваць, зламаць што-н.; скалечыць, знявечыць каго-н.; **annoy the hell out of smb.** *infml* моцна раздражняць каго-н.; **scare the hell out of smb.** *infml* моцна палохаць каго-н.; **to hell and back** *infml* (прайсці) праз складаныя абставіны

**hell**[2] [hel] *interj.* чорт (пабяры)! (*перадае прыкрасць, незадаволенасць, раззлаванасць*); *Oh, hell! I've missed the last train.* От чорт! Я спазніўся на апошні цягнік; *Bloody hell!* О, праклён!/О, праклятае!

**he'll** [hiːl, hil] *скар. ад* he will

**Hellene** [ˈheliːn] *n.* (старажытны) грэк, элін

**Hellenic** [heˈliːnɪk] *adj.* старагрэчаскі, элінскі (*гісторыя, мова, культура*); **the Hellenic Republic** Грэчаская рэспубліка

**Hellenistic** [ˌhelɪˈnɪstɪk] *adj.* эліністычны, які адносіцца да элінізму

**hellion** [ˈheliən] *n. AmE* гарэза,свавольнік

**hellish** [ˈhelɪʃ] *adj. infml* агідны, брыдкі

**hello** [həˈləʊ] *interj.* прывітанне; алё; гэй!

**helm** [helm] *n.* **1.** штурвал, стырно, руль **2.** улада; кіраванне; **at the helm** за штурвалам; ва ўладзе

**helmet** [ˈhelmɪt] *n.* шлем

**helmsman** [ˈhelmzmən] *n.* (*pl.* **-men**) рулявы, стырнавы

**help**[1] [help] *n.* **1.** дапамога **2.** памагаты; памагатая **3. the help** работнік, слуга, прыслуга, наймічка **4.** сродак, паратунак ♦ **there is no help for it** гэтага нельга пазбегнуць

**help**[2] [help] *v.* **1. (with)** дапамагаць; **help down** дапамагчы сысці ўніз **2.** садзейнічаць, спрыяць; **that doesn't help the situation** гэта справе не дапаможа **3.** аблягчаць, прыносіць палёгку; *The pills helped the headache.* Пілюлі аблегчылі галаўны боль. **4.** падаваць (*ежу, напоі*); **help smb. to smth.** частаваць каго-н. чым-н.; **help oneself to smth.** частавацца чым-н.; браць сабе (*ежу, напоі*); **help yourself, please!** частуйцеся, калі ласка! **5.** *infml* (*неадабральна*) украсці, узяць без дазволу; *He had been helping himself to the money in the cash register.* Ён пастаяна краў грошы з касы. ♦ **give/lend a helping hand** дапамагчы (*каму-н.*); **God/Heaven help you** *infml* памагай вам Бог; **it can't be helped** нічога не зробіш; **one cannot help doing smth./one cannot help but do smth.** нельга стрымаць, прадухіліць нешта; немагчыма стрымацца ад нечага; *We couldn't help laughing (crying).* Мы не маглі стрымаць смех (слёзы).

**help off** [ˌhelpˈɒf] *phr.v.* **(with)** памагчы (*каму-н.*) зняць адзежу/вопратку

**help on** [ˌhelpˈɒn] *phr.v.* садзейнічаць, спрыяць, дапамагаць; **help on (with)** памагчы (*каму-н.*) апрануць адзежу/вопратку

**help out** [ˌhelpˈaʊt] *phr.v.* **1.** вывесці з цяжкага становішча, выратаваць, выбавіць з бяды, дапамагчы **2.** падаваць (*ежу*); *She helped out fish and chips.* Яна расклала па талерках рыбу са смажанай бульбай.

**helpful** [ˈhelpfl] *adj.* **1. (for)** карысны **2.** паслужлівы, услужлівы, гатовы дапамагчы

**helping** [ˈhelpɪŋ] *n.* **(of)** порцыя (*ежы*)

**helpless** [ˈhelpləs] *adj.* **1.** бездапаможны **2.** дарэмны, бескарысны; *She was helpless with tears.* Яна ніяк не магла стрымацца ад плачу.

**helter-skelter**[1] [ˌheltəˈskeltə] *n.* спіральная горка (*атракцыён*)

**helter-skelter**[2] [ˌheltəˈskeltə] *adj.* неахайны, зроблены абы-як, у спешцы; неарганізаваны

**hem**[1] [hem] *n.* падрубачнае шво; кайма

**hem**[2] [hem] *v.* падрубліваць; аблямоўваць, упрыгожваць каймой ♦ **hem and haw** *AmE* мямліць, запінацца; вагацца, не рашацца

**hem in** [ˌhemˈɪn] *phr.v.* акружаць (*каго-н./што-н. чым-н.*)

**he-man** [ˈhiːmæn] *n.* (*pl.* **he-men**) сапраўдны мужчына
**hematology** [ˌhiːməˈtɒlədʒi] *AmE* = **haematology**
**hemisphere** [ˈhemɪsfɪə] *n.* паўшар'е
**hemlock** [ˈhemlɒk] *n.* **1.** *bot.* балігалоў **2.** атрута з балігалову
**hemoglobin** [ˌhiːməˈgləʊbɪn] *AmE* = **haemoglobin**
**hemophilia** [ˌhiːməˈfɪliə] *AmE* = **haemophilia**
**hemophiliac** [ˌhiːməˈfɪliæk] *AmE* = **haemophiliac**
**hemorrhage** [ˈhemərɪdʒ] *AmE* = **haemorrhage**
**hemorrhoids** [ˈhemərɔɪdz] *AmE* = **haemorrhoids**
**hemp** [hemp] *n. bot.* каноплі
**hen** [hen] *n.* курыца; **a hen pheasant** самка фазана
**hence** [hens] *adv. fml* адсюль; пагэтаму; дзеля таго; з гэтай пары/з гэтага часу; **six days/ weeks hence** шэсць дзён/тыдняў з гэтай пары; **go hence** памерці
**henceforth** [ˌhensˈfɔːθ] *adv. fml* з гэтага часу, надалей, надалей, у далейшым
**henchman** [ˈhentʃmən] *n.* (*pl.* **-men**) прыхільнік; памагаты; прыхвасцень; саўдзельнік
**hencoop** [ˈhenkuːp] *n.* куратнік; клетка для курэй
**henna** [ˈhenə] *n. bot.* хна
**hen party** [ˈhenˌpɑːti] *n. BrE, infml* вечарынка для жанчын, дзявочнік
**henpecked** [ˈhenpekt] *adj. infml* якога трымаюць пад абцасам
**hepatitis** [ˌhepəˈtaɪtɪs] *n. med.* гепатыт
**her** [hɜː, hə] *pron.* яе; свой; *Jean likes her job.* Джын любіць сваю працу.
**herald**[1] [ˈherəld] *n.* веснік, вястун, апавяшчальнік
**herald**[2] [ˈherəld] *v. fml* **1.** апавяшчаць, паведамляць **2.** прадвяшчаць, быць прыкметай
**heraldry** [ˈherəldri] *n.* геральдыка
**herb** [hɜːb] *n.* зёлка, трава; расліна (*асабліва лекавая*)
**herbaceous** [hɜːˈbeɪʃəs] *adj. bot.* травяны; травяністы
**herbaceous border** [hɜːˌbeɪʃəsˈbɔːdə] *n.* кветкавы бардзюр
**herbal** [ˈhɜːbl] *adj.* травяны, прыгатаваны на аснове траў, зёлкавы; **herbal tea** гарбата з траў
**herbalist** [ˈhɜːbəlɪst] *n.* збіральнік траў; знаўца траў; лекар, які лечыць травамі
**herbaria** [hɜːˈbeəriə] *pl.* → **herbarium**
**herbarium** [hɜːˈbeəriəm] *n.* (*pl.* **herbariums** *or* **herbaria**) гербарый
**herbicide** [ˈhɜːbɪsaɪd] *n. agr.* гербіцыд
**herbivorous** [hɜːˈbɪvərəs] *adj.* траваедны (*пра жывёл*)
**Herculean** [ˌhɜːkjuˈliːən] *adj.* геркулесаўскі; **a Herculean task** вельмі цяжкая задача
**herd**[1] [hɜːd] *n.* **1.** статак; табун; стадны інстынкт, стаднае пачуццё **2.** натоўп; **the common herd** натоўп; абывацелі, мяшчане
**herd**[2] [hɜːd] *v.* **1.** хадзіць чарадою; трымацца разам **2.** збіраць у статак, табун
**herdsman** [ˈhɜːdzmən] *n.* (*pl.* **-men**) пастух
**here** [hɪə] *adv.* **1.** тут; сюды **2.** цяпер, у гэты момант **3.** вось (*паказваючы або прапануючы што-н.*) ♦ **here and there** там і сям; то там, то сям; туды і сюды; **here, there and everywhere** усюды; **neither here nor there** неістотна; ***Here goes!*** *infml* Ну, пайшлі/паехалі!; Хай будзе, што будзе!; Узяліся!; Пачалі!; ***Here's to you!*** За ваша здароўе!; ***Here they come.*** Вось і яны; ***Here you are./Here you go.*** Вось вазьміце, калі ласка.
**hereabouts** [ˌhɪərəˈbaʊts] *adv.* паблізу, побач
**hereafter**[1] [ˌhɪərˈɑːftə] *n.* **the hereafter** той свет, замагільнае жыццё
**hereafter**[2] [ˌhɪərˈɑːftə] *adv.* **1.** *law* ніжэй, далей **2.** *fml* затым, услед за гэтым; у будучым, у далейшым **3.** *fml* пасля смерці
**hereby** [ˌhɪəˈbaɪ] *adv. law* гэтым; такім чынам
**hereditary** [həˈredɪtri] *adj.* **1.** спадчынны, наследаваны, унаследаваны; прыроджаны (*пра хваробу, інстынкт і да т.п.*) **2.** спадчынны, які перадаецца ў спадчыну; фамільны (*пра тытул, каштоўнасці і да т.п.*)
**heredity** [həˈredəti] *n.* спадчыннасць, здольнасць наследавацца
**herein** [ˌhɪərˈɪn] *adv. fml or law* у гэтым; тут; пры гэтым
**hereinafter** [ˌhɪərɪnˈɑːftə] *adv.* = **hereafter**[2]
**heresy** [ˈherəsi] *n.* ерась
**heretic** [ˈherətɪk] *n.* ерэтык; ерэтычка
**heretical** [həˈretɪkl] *adj.* ерэтычны; **heretical opinions** ерэтычныя погляды
**herewith** [ˌhɪəˈwɪð] *adv. fml* гэтым (*дадаецца, сведчыцца і да т.п.*)
**heritage** [ˈherɪtɪdʒ] *n.* спадчына; **cultural heritage** культурная спадчына
**hermetic** [hɜːˈmetɪk] *adj. tech.* герметычны; шчыльна зачынены/закрыты
**hermit** [ˈhɜːmɪt] *n.* пустэльнік; пустэльніца
**hermitage** [ˈhɜːmɪtɪdʒ] *n.* прытулак/прыстанішча пустэльніка
**hernia** [ˈhɜːniə] *n. med.* грыжа, кіла

**hero** [ˈhɪərəʊ] *n.* **1.** геро́й; **a national hero** нацыяна́льны геро́й **2.** геро́й, персана́ж, гало́ўная дзе́ючая/дзе́йная асо́ба (*твора*)
**heroic** [həˈrəʊɪk] *adj.* гераі́чны; геро́йскі
**heroics** [həˈrəʊɪks] *n. pl.* (*неадабральна*) высакамо́ўныя або́ напы́шлівыя вы́разы
**heroin** [ˈherəʊɪn] *n.* гераі́н
**heroine** [ˈherəʊɪn] *n.* **1.** гераі́ня **2.** гераі́ня, персана́ж, гало́ўная дзе́ючая/дзе́йная асо́ба (*твора*)
**heroism** [ˈherəʊɪzəm] *n.* гераі́зм, геро́йства
**heron** [ˈherən] *n. zool.* ча́пля
**herpes** [ˈhɜːpiːz] *n. med.* ге́рпес
**herring** [ˈherɪŋ] *n.* селядзе́ц; **shoals of herring** касякі́ селядцо́ў; **pickled herring** марынава́ны селядзе́ц; **red herring** вэ́нджаны селядзе́ц
**hers** [hɜːz] *pron.* яе́; **a friend of hers** адзі́н з яе́ сябро́ў
**herself** [hɜːˈself] *pron.* **1.** сябе́; -ся, -цца; *She hurt herself.* Яна выцялася. **2.** сама́; *She saw it herself.* Яна сама гэта бачыла. ♦ **be herself** (*пра жанчыну або дзяўчыну*) быць у сваі́м звыча́йным (до́брым) ста́не здаро́ўя, настро́ю; не паддава́цца ўплы́ву і́ншых людзе́й; *She is not herself.* Яна сама не ў сабе (сама не свая); **(all) by herself** сама́; самасто́йна, без чыёй-н. дапамо́гі; **(all) to herself** для яе́ адно́й
**hertz** [hɜːts] *n.* (*pl.* **hertz**) *phys.* герц
**he's** [hiːz, hiz] *скар. ад* **1.** he is **2.** he has
**hesitant** [ˈhezɪtənt] *adj.* нерашу́чы, няўпэ́ўнены, які́ сумнява́ецца/ вага́ецца
**hesitate** [ˈhezɪteɪt] *v.* **1. (about/over)** вага́цца, хіста́цца **2.** сумнява́цца
**hesitation** [ˌhezɪˈteɪʃn] *n.* **1.** вага́нне, хіста́нне **2.** запі́нка; **a pause of hesitation** мо́мант нерашу́часці, затры́мка ў гаво́рцы
**heterogeneous** [ˌhetərəˈdʒiːniəs] *adj.* гетэрагéнны, неаднаро́дны, разнаро́дны
**heterosexual[1]** [ˌhetərəˈsekʃuəl] *n.* гетэрасексуа́л
**heterosexual[2]** [ˌhetərəˈsekʃuəl] *adj.* гетэрасексуа́льны
**het up** [ˌhetˈʌp] *adj.* **(about/over)** *BrE, infml* усхвалява́ны, неспако́йны; заклапо́чаны; *Why are you so het up?* Чаго ты так усхадзіўся?
**hew** [hjuː] *v.* **(hewed, hewed** *or* **hewn) 1.** *dated* се́кчы, рассяка́ць, прасяка́ць **2.** *fml* абчэ́сваць (*бервяно*), высяка́ць (*з каменю, мармуру*)
**hewn** [hjuːn] *p.p.* → **hew**
**hexagon** [ˈheksəgən] *n.* шасціку́тнік
**hey** [heɪ] *interj. infml* эй! (*вокліч, якім звяртаюцца да каго-н., аклікаюць каго-н.*)
**heyday** [ˈheɪdeɪ] *n.* зені́т, ро́сквіт, ле́пшая пара́; **in the heyday of one's youth** у ро́сквіце маладо́сці

**HGV** [ˌeɪtʃdʒiːˈviː] *BrE* (*скар. ад* **heavy goods vehicle**) вялі́кі грузаві́к
**hi** [haɪ] *interj. infml* віта́ю!; здаро́ў!
**hiatus** [haɪˈeɪtəs] *n.* **1.** прабе́л, про́пуск **2.** *ling.* хія́тус, зія́нне, зе́ўранне
**hibernate** [ˈhaɪbəneɪt] *v.* спаць зімо́вай спя́чкай (*пра жывёл*)
**hibiscus** [hɪˈbɪskəs] *n. bot.* (*pl.* **hibiscus**) гібі́скус; **Chinese hibiscus** кіта́йская ру́жа
**hiccup[1]** [ˈhɪkʌp] *n.* і́каўка; **have the hiccup** і́каць
**hiccup[2]** [ˈhɪkʌp] *v.* і́каць
**hid** [hɪd] *past* → **hide[2]**
**hidden** [ˈhɪdn] *p.p.* → **hide[2]**
**hide[1]** [haɪd] *n.* **1.** звяры́ная ску́ра (*нявырабленая і вырабленая*) **2.** *infml* чалаве́чая ску́ра **3.** (паляўні́чая) заса́да, тайні́к ♦ **have/tan smb.'s hide** *dated, infml* стро́га пакара́ць каго́-н.; **not see hide nor hair of smb./smth.** *infml* і по́чуту няма́, ніčо́га не чува́ць пра каго́-н./што-н.
**hide[2]** [haɪd] *v.* **(hid, hidden)** хава́ць; хава́цца ♦ **hide one's light under a bushel** *BrE* уто́йваць свой ро́зум і та́лент; быць залі́шне сці́плым
**hide-and-seek** [ˌhaɪdnˈsiːk] *n.* гульня́ ў хо́ванкі
**hideaway** [ˈhaɪdəweɪ] *n.* схо́вішча; прыту́лак
**hidebound** [ˈhaɪdbaʊnd] *adj.* абмежава́ны, вузкало́бы; закасне́лы
**hideous** [ˈhɪdiəs] *adj.* агі́дны; га́дкі, бры́дкі; страшэ́нны, жахлі́вы; **a hideous face** бры́дкі твар; **a hideous crime** жахлі́вае злачы́нства; **a hideous house** страшэ́нны дом
**hiding** [ˈhaɪdɪŋ] *n.* **1.** хава́нне, уто́йванне; **go into hiding** хава́цца **2.** *infml* біццё, лупцава́нне ♦ **on a hiding to nothing** у безвыхо́дным стано́вішчы, у тупікý
**hierarchical** [ˌhaɪəˈrɑːkɪkl] *adj.* іерархі́чны
**hierarchy** [ˈhaɪərɑːki] *n.* іера́рхія
**hieroglyph** [ˈhaɪərəglɪf] *n.* іеро́гліф
**hi-fi[1]** [ˈhaɪfaɪ] *n.* прайграва́льнік, магнітафо́н з вялі́кай дакла́днасцю перада́чы гу́ку
**hi-fi[2]** [ˈhaɪfaɪ] *adj.* **1.** высакая́касны (*пра гуказапіс*) **2.** які́ дае́ вялі́кую дакла́днасць перада́чы гу́ку (*пра магнітафон, прайгравальнік і да т.п.*)
**high[1]** [haɪ] *n.* **1.** найвышэ́йшы пункт, ма́ксімум **2.** *meteorol.* во́бласць павы́шанага ці́ску, антыцыкло́н **3.** «пік» (*пра тэмпературу паветра на працягу дня, тыдня і г.д.*) **4.** *infml* стан наркаты́чнага ап'яне́ння **5.** *infml* пачуццё вялі́кага задавальне́ння (*ад поспехаў, прыемных уражанняў і да т.п.*) **6.** (*у назвах*) сярэ́дняя шко́ла ♦ **on high** 1) *fml* на высо́кім ме́сцы; на высо́кай паса́дзе 2) *relig.* на не́бе, на нябёсах

**high²** [haɪ] *adj.* **1.** высóкі; **a high ground** высóкае мéсца, узвы́шша **2.** высóкі; які́ знахóдзіцца на вышыні́, навéрсе; **a high shelf** высóкая палі́ца **3.** вялі́кі; бóльшы, чым звычáйна; **a high pulse** больш чáсты пульс **4. (in)** насы́чаны, з высóкай кóлькасцю (*чаго-н.*); **food high in protein** éжа з вялі́кай кóлькасцю бялкý **5.** вышэ́йшы, высокапастáўлены; вярхóўны; **a high rank** вышэ́йшы чын **6.** дарагі́, высóкі (*пра цану, стаўкі і да т.п.*); *Living is high here.* Жыццё тут дарагое. **7.** які́ знахóдзіцца ў разгáры; **high summer** разгáр лéта **8. (on)** мóцна п'я́ны; ачмурэ́лы, адурэ́лы ад наркóтыкаў; **get high** ап'янéць, адурэ́ць (*ад алкаголю, наркотыкаў і да т.п.*) ♦ **be/get on your high horse** *infml* вáжнічаць, трымáцца фанабэ́рліва; **have a high old time** *dated*, *infml* дóбра правóдзіць час; **high and dry** 1) вы́кінуты абó вы́цягнуты на бéраг (*пра судна*) 2) пакі́нуты ў бядзé; **high and mighty** *infml* пагáрдлівы, фанабэ́рлівы, ганары́сты, напы́шлівы; уладáрны; **high as a kite** *infml* мóцна ўзбýджаны пад уплы́вам алкагóлю абó наркóтыкаў; **high days and holidays** фестывáлі абó і́ншыя ўрачы́стасці; **smell/stink to high heaven** *infml* 1) мець мóцны непрыéмны пах, смярдзéць 2) быць несумлéнным, крывадýшным абó амарáльным чалавéкам

**high³** [haɪ] *adv.* высóка ♦ **high and low** усю́ды; **run high** узбуджáцца (*пра пачуцці*)

**high-born** [ˌhaɪˈbɔːn] *adj.* знáтнага пахóджання

**highbrow** [ˈhaɪbraʊ] *n.* чалавéк, які́ прэтэндýе на інтэлектуáльнасць; інтэлектуáл

**high-class** [ˌhaɪˈklɑːs] *adj.* першаклáсны

**High Commissioner** [ˌhaɪkəˈmɪʃənə] *n.* высóкі камісáр (*пасол, кіраўнік дыпламатычнага прадстаўніцтва адной дзяржавы Брытанскай садружнасці ў іншай*)

**High Court** [ˌhaɪˈkɔːt] *n.* Вярхóўны Суд

**higher education** [ˌhaɪəedʒuˈkeɪʃn] *n.* вышэ́йшая адукáцыя

**high fidelity** [ˌhaɪfɪˈdeləti] *n. dated* высóкая я́касць/дакладнасць аднаўлéння гýку (*пра радыё*)

**high-flier** [ˌhaɪˈflaɪə] *n.* = **high-flyer**

**high-flown** [ˌhaɪˈfləʊn] *adj.* высакамóўны, напы́шлівы (*пра стыль*)

**high-flyer** [ˌhaɪˈflaɪə] *n.* славалю́б; той, хто здóльны вы́значыцца; птýшка высóкага палёту

**high-grade** [ˌhaɪˈɡreɪd] *adj.* першаклáсны, высокага гатýнку

**high-handed** [ˌhaɪˈhændɪd] *adj.* уладáрны, улáдны, сваво́льны; які́ перавышáе ўлáду

**high jump** [ˈhaɪdʒʌmp] *n.* **the high jump** *sport* скачóк у вышыню́ ♦ **be for the high jump** *BrE, infml* **:** *He is for the high jump.* Яго чакаюць непрыемнасці.

**highland¹** [ˈhaɪlənd] *n.* **1.** нагóр'е, высакагóрная мясці́на абó краі́на **2. the Highlands** пóўнач і паўнóчны зáхад Шатлáндыі

**highland²** [ˈhaɪlənd] *adj.* гóрны

**highlander** [ˈhaɪləndə] *n.* **1.** гóрац **2. Highlander** шатлáндскі гóрац

**Highland fling** [ˌhaɪləndˈflɪŋ] *n.* флінг (*традыцыйны шатландскі танец*)

**high-level** [ˌhaɪˈlevl] *adj.* (што адбываéцца) на высóкім узрóўні; **high-level peace talks** мі́рныя перамóвы на высóкім узрóўні

**highlight¹** [ˈhaɪlaɪt] *n.* **1.** кульмінацы́йны мóмант/факт **2.** *pl.* **highlights** светлавы́ эфéкт; светлавы́ блік, светлавáя пля́ма (*у жывапісе, фатаграфіі і да т.п.*)

**highlight²** [ˈhaɪlaɪt] *v.* **1.** вылучáць, стáвіць на пéршы план, падкрэ́сліваць; *The report highlighted the inadequacy of the measures taken.* У дакладзе было асабліва адзначана, што прыняты недастатковыя меры. **2.** вылучáць чáстку тэ́ксту мáркерам **3.** асвятля́ць пáсмы валасóў

**highly** [ˈhaɪli] *adv.* **1.** высóка, нáдта, дýжа, надзвычáйна, мóцна; **highly skilled** высокакваліфікавáны; **a highly amusing story** надзвы́чай/надзвычáйна забáўная гістóрыя **2.** высóка, дóбра, прыхі́льна; **speak highly of smb./smth.** добра адзывáцца аб кім-н./чым-н.; **think highly of smb./smth.** высóка цані́ць кагó-н./штó-н.

**highly strung** [ˌhaɪliˈstrʌŋ] *adj. BrE* нервóвы, узрýшлівы, які́ лёгка ўзбуджáецца; *She is highly strung.* Яе нервы напружаны.

**high-minded** [ˌhaɪˈmaɪndɪd] *adj.* высакарóдны, узвы́шаны; велікадýшны (*пра чалавека, ідэі*)

**Highness** [ˈhaɪnəs] *n.* высóкасць (*тытул*); *His Highness Prince Leopold* Яго высокасць прынц Леапольд

**high-pitched** [ˌhaɪˈpɪtʃt] *adj.* высóкі, прані́злівы, прарэ́злівы (*пра гук*); **high-pitched cry** праніз́лівы/прарэ́злівы крык

**high-powered** [ˌhaɪˈpaʊəd] *adj.* **1.** уплывóвы; які́ мáе ўлáду, вялі́кія магчы́маcці; энергі́чны **2.** вáжная, якáя вымагáе адкáзнасці (*пра дзейнасць*) **3.** *tech.* магýтны; **a high-powered truck** магýтны грузаві́к, фýра

**high-ranking** [ˌhaɪˈræŋkɪŋ] *adj.* высокапастáўлены; стáршы; **a high-ranking official** высокапастáўленая афіцы́йная асóба

**high-rise** [ˈhaɪraɪz] *adj.* шматпавярхо́вы; высо́кі; вышы́нны; **a high-rise building** вышы́нны буды́нак, гмах; **a high-rise district** раён шматпавярхо́вай забудо́вы

**high road** [ˈhaɪrəʊd] *n.* **1.** *BrE, dated* бальша́к; шаша́ **2. (to)** прамы́ шлях (*да чаго-н.*) ♦ **take the high road (in smth.)** вы́браць найбо́льш пазіты́ўную та́ктыку дзе́яння

**high school** [ˈhaɪskuːl] *n.* сярэ́дняя шко́ла (*старэйшыя класы*)

**high-spirited** [ˌhaɪˈspɪrɪtɪd] *adj.* **1.** вясёлы; жва́вы (*пра чалавека*) **2.** жва́вая, гарэ́злівая (*пра жывёліну*)

**high street** [ˈhaɪstriːt] *n.* галоўная ву́ліца (*часта ў назвах*); **20 High Street** Хай-стры́т, 20

**hightail** [ˈhaɪteɪl] *v.* **:** ♦ **hightail it** *infml* уцяка́ць, бе́гчы з усі́х ног, даць лататы́, даць дра́ла

**high tea** [ˌhaɪˈtiː] *n. BrE* ра́нняя сы́тная вячэ́ра з ча́ем (*замест абеду*)

**high-tech** [ˌhaɪˈtek] *adj. infml* **1.** які́ выкарысто́ўвае склада́ную, сучасную тэ́хніку/тэхнало́гію або́ ство́раны з яе́ дапамо́гай; высокатэхналагі́чны; *These machines are all very high-tech.* Гэтыя машыны ўсе вельмі высокатэхналагічныя. **2.** які́ ма́е суча́сны вы́гляд, ство́раны з суча́сных матэрыя́лаў (*пра дызайн, аб'екты і да т.п.*); *The house is designed in high-tech style.* Дызайн дома распрацаваны ў самым сучасным стылі.

**high tide** [ˌhaɪˈtaɪd] *n.* прылі́ў

**high-up** [ˈhaɪʌp] *n. BrE, infml* шы́шка, туз, верхаво́д, дзяло́к

**high water** [ˌhaɪˈwɔːtə] *n.* по́ўная вада́; прылі́ў

**highway** [ˈhaɪweɪ] *n.* бальша́к; аўтастра́да; шаша́; магістра́ль; **the Highway Code** пра́вілы даро́жнага ру́ху (*у Брытаніі*)

**highwayman** [ˈhaɪweɪmən] *n.* (*pl.* **-men**) разбо́йнік з вялі́кай даро́гі

**hijack** [ˈhaɪdʒæk] *v.* **1.** захапі́ць (*транспартны сродак, самалёт і да т.п.*) і прымуша́ць кіро́ўцу або́ лётчыка змяні́ць маршру́т; займа́цца паве́траным піра́цтвам **2.** кантралява́ць што-н., каб рэкламава́ць свае́ мэ́ты і інтарэ́сы

**hijacker** [ˈhaɪdʒækə] *n.* той, хто захо́плівае самалёты; паве́траны піра́т, паве́траны банды́т; налётчык, грабе́жнік (*які нападае на аўтамабілі*)

**hike¹** [haɪk] *n.* **1.** до́ўгая прагу́лка, шпа́цыр, вандро́ўка, падаро́жжа (*у сельскай мясцовасці*) **2. (in)** *infml* вялі́кае або́ неспадзява́нае павышэ́нне (*цэнаў, кошту і да т.п.*) ♦ **take a hike!** *AmE, infml* пайшоў прэч!

**hike²** [haɪk] *v.* **1.** падаро́жнічаць, хадзі́ць пехато́й, шпацырава́ць (*дзеля задавальнення*) **2. (up)** павы́сіць, павялі́чыць (*цэны, падаткі і да т.п.*)

**hike up** [ˌhaɪkˈʌp] *phr.v. infml* падцягваць, узніма́ць (*што-н.*)

**hiker** [ˈhaɪkə] *n.* пе́шы вандро́ўнік, туры́ст

**hiking** [ˈhaɪkɪŋ] *n.* прагу́лка, шпа́цыр; вандро́ўка пе́шшу; пе́шы туры́зм

**hilarious** [hɪˈleəriəs] *adj.* ве́льмі вясёлы, шу́мны; ве́льмі сме́шны

**hilarity** [hɪˈlærəti] *n.* шу́мная/бу́рная весяло́сць

**hill** [hɪl] *n.* узгорак, паго́рак; го́рка ♦ **be over the hill** *infml* быць непатрэ́бным, сысці́ са сцэ́ны (*пра чалавека*)

**hillock** [ˈhɪlək] *n.* паго́рачак, узго́рак

**hillside** [ˈhɪlsaɪd] *n.* схіл, адхо́н гары́ або́ ўзго́рка

**hilltop** [ˈhɪltɒp] *n.* вяршы́ня ўзго́рка або́ гары́

**hilly** [ˈhɪli] *adj.* узго́ркавы, узго́рысты; **a hilly area** узго́рыстая мясцо́васць

**hilt** [hɪlt] *n.* ру́чка хало́днай збро́і; эфе́с ♦ **up to the hilt** ца́лкам; да канца́

**him** [hɪm] *pron.* яго́; яму́

**himself** [hɪmˈself] *pron.* **1.** сябе́; *He hurt himself.* Ён пара́ніўся. **2.** сам ♦ **(all) by himself** сам, адзі́н, самасто́йна, без (*чыёй-н.*) дапамо́гі; **(all) to himself** то́лькі для яго́; **be/seem himself** (*пра мужчыну або хлопца*) быць у нарма́льным ста́не (*здароўя, духу і да т.п.*); не паддава́цца чужо́му ўплы́ву

**hind¹** [haɪnd] *n.* са́мка высакаро́днага але́ня, лань

**hind²** [haɪnd] *adj.* за́дні (*звыч. пра ногі жывёл*)

**hinder** [ˈhɪndə] *v.* **1. (from)** заміна́ць, перашкаджа́ць (*каму-н./ чаму-н.*), не дава́ць рабі́ць (*што-н.*) **2.** затры́мліваць; *She was hindered by rain.* Яе затрымаў дождж.

**Hindi** [ˈhɪndi] *n.* мо́ва хі́ндзі

**hindrance** [ˈhɪndrəns] *n.* **(to)** перашко́да, замі́нка

**hindsight** [ˈhaɪndsaɪt] *n.* непрадба́члівасць; схі́льнасць жыць за́днім ро́зумам

**Hindu¹** [ˈhɪnduː, ˌhɪnˈduː] *n.* інду́с; інду́ска

**Hindu²** [ˈhɪnduː, ˌhɪnˈduː] *adj.* інду́скі

**Hinduism** [ˈhɪnduːɪzəm] *n.* індуі́зм

**hinge¹** [hɪndʒ] *n.* шарні́р, заве́са, крук ♦ **off the hinges** сапсава́ны; збянтэ́жаны

**hinge²** [hɪndʒ] *v.* прымацо́ўваць, наве́шваць на заве́сах

**hinge on** [ˌhɪndʒˈɒn] *phr.v.* ца́лкам зале́жаць ад чаго-н. (*пра дзеянне, вынік і да т.п.*)

**hinge upon** [ˌhɪndʒəˈpɒn] *phr.v.* = **hinge on**

**hint¹** [hɪnt] *n.* **1.** намёк **2. (of)** зусі́м мале́нькая ко́лькасць чаго́-н.; цень (*усмешкі, суму і да т.п.*);

**a hint of garlic in the dish** невялі́кая ко́лькасць часнаку́ ў стра́ве дзе́ля па́паху **3. (on)** пара́да; **hints on cooking** пара́ды па прыгатава́нні е́жы ♦ **take a/the hint** зразуме́ць намёк

**hint²** [hɪnt] *v.* **(at)** намяка́ць (*на што-н.*)

**hinterland** [ˈhɪntəlænd] *n.* раёны, які́я знахо́дзяцца ў глыбіні́ краі́ны, далёкія ад прыбяржэ́жнай паласы́, бераго́ў вялі́кай ракі́ або́ ад буйны́х гарадо́ў

**hip¹** [hɪp] *n.* бядро́, клуб, сцягно́

**hip²** [hɪp] *n.* плод ру́жы або́ шыпшы́ны

**hip³** [hɪp] *adj. infml* мо́дны, які́ со́чыць за мо́дай; сты́льны, франтава́ты

**hip flask** [ˈhɪpflɑːsk] *n.* біклáжка

**hippie** [ˈhɪpi] *n.* хі́пі

**hippo** [ˈhɪpəʊ] *n.* (*pl.* **-os**) *infml* бегемо́т

**Hippocratic oath** [ˌhɪpəkrætɪkˈəʊθ] *n.* **: the Hippocratic oath** клятва Гіпакрата

**hippodrome** [ˈhɪpədrəʊm] *n.* гіпадро́м

**hippopotami** [ˌhɪpəˈpɒtəmaɪ] *pl.* → **hippopotamus**

**hippopotamus** [ˌhɪpəˈpɒtəməs] *n. zool.* (*pl.* **hippopotamuses** *or* **hippopotami**) гіпапата́м, бегемо́т

**hippy** [ˈhɪpi] *n.* = **hippie**

**hire¹** [ˈhaɪə] *n.* **1.** наём; прака́т; зда́ча ў наём; **let smth. (out) on hire** здава́ць што-н. у наём/напрака́т; **take smth. on hire** узя́ць што-н. напрака́т; **cars for hire** выдаю́цца машы́ны напрака́т **2.** пла́та за наём, за прака́т; *The price includes the hire of the boat.* Цана ўключае пракат лодкі.

**hire²** [ˈhaɪə] *v.* **1.** браць напрака́т, здыма́ць, здыма́ць; **hire a bicycle/video** браць напрака́т веласіпе́д/ві́дэа; **hire a room** зніма́ць пако́й **2.** найма́ць, браць на пра́цу; **hire a worker** наня́ць рабо́чага

**hire out** [ˌhaɪərˈaʊt] *phr.v.* здава́ць унаём, дава́ць напрака́т; **hire oneself out to smb.** найма́цца да каго́-н. на пра́цу

**hire purchase** [ˌhaɪəˈpɜːtʃəs] *n. BrE* паку́пка ў растэрміно́ўку; **buy smth. on hire purchase** купля́ць што-н. у растэрміно́ўку

**his** [hɪz] *pron.* яго́; свой; *He took his hat.* Ён узяў свой капялюш.

**Hispanic¹** [hɪˈspænɪk] *n.* **1.** іспа́нец; іспа́нка **2.** лацінаамерыка́нец; лацінаамерыка́нка

**Hispanic²** [hɪˈspænɪk] *adj.* **1.** іспа́нскі; іспанскамо́ўны **2.** лацінаамерыка́нскі

**hiss¹** [hɪs] *n.* шыпе́нне; свіст; сквірчэ́нне (*пры смажанні*)

**hiss²** [hɪs] *v.* **1. (at)** шыпе́ць; свіста́ць; *He was hissed off the stage.* Яго са свістам выгналі са сцэны. **2.** сы́каць; *“Leave me alone” she hissed.* «Адчапіся», – сыкнула яна.

**historian** [hɪˈstɔːriən] *n.* гісто́рык

**historic** [hɪˈstɒrɪk] *adj.* гістары́чны, які́ ма́е гістары́чнае значэ́нне; **historic events** гістары́чныя падзе́і

**historical** [hɪˈstɒrɪkl] *adj.* гістары́чны, які́ ма́е адно́сіны да гісто́рыі; які́ вядо́мы ў гісто́рыі; **a historical novel** гістары́чны рама́н

**history** [ˈhɪstri] *n.* гісто́рыя; **history books** гістары́чныя кні́гі ♦ **history repeats itself** гісто́рыя паўтара́ецца; **make history/go down in history** рабі́ць/ствара́ць гісто́рыю

**histrionic** [ˌhɪstriˈɒnɪk] *adj. fml* (*неадабральна*) **1.** сцэні́чны, акцёрскі **2.** тэатра́льны, ненату́ральны; штучны; **histrionic merriness** шту́чная весяло́сць

**hit¹** [hɪt] *n.* **1.** удар, штуршо́к; **give smb./smth. a hit** уда́рыць каго́-н./ што-н.; **a clever hit** тра́пны ўдар **2.** папада́нне; *He scored a direct hit.* Ён патрапіў проста ў цэль. **3.** по́спех, уда́ча, уда́лая спро́ба; хіт, нешта ве́льмі папуля́рнае ці паспяхо́вае (*пра фільм, кнігу, песню, п'есу і да т.п.*); **be a big hit** мець вялі́кі по́спех; *His book was a hit.* Яго кніга мела вялікі поспех; **make a hit** ствары́ць сенса́цыю; *I want to buy a CD with the latest hits.* Я хачу набыць дыск з самымі папулярнымі песнямі. **4.** *slang* до́за нарко́тыку **5.** *AmE, slang* жо́рсткае злачы́нства або́ забо́йства **6.** вы́нік по́шуку (*асабліва ў інтэрнэце*) ♦ **be/make a hit (with smb.)** спадаба́цца (каму́-н.) адра́зу, з пе́ршай сустрэ́чы; *She has made a big hit with Charlie.* Яна адразу вельмі спадабалася Чарлі.

**hit²** [hɪt] *v.* **(hit) 1.** біць; **hit smb. a heavy blow** мо́цна каго́-н. уда́рыць **2.** пацэ́льваць; **hit a target** трапля́ць у цэль **3.** закрана́ць за жыво́е; *He is hit in his pride.* Яго самалюбства абражана. ♦ **hit home** зачапі́ць за жыво́е; **hit on/upon smth.** знайсці́, натра́піць; напа́сці, наткну́цца на што-н.; **hit the headlines** зрабі́ць сенса́цыю; **hit the ceiling/roof** *infml* раз'ю́шыцца; **hit the hay/sack** ісці́ спаць; **hit the nail on the head** праві́льна ўгада́ць, здагада́цца; **hit the road/trail** *infml* выпраўля́цца ў даро́гу; **hit smb. (straight/right) in the eye** кі́дацца ў во́чы каму́-н.

**hit back** [ˌhɪtˈbæk] *phr.v.* адказа́ць на ўдар, даць зда́чы; адказа́ць на напа́дкі тым жа

**hit off** [ˌhɪtˈɒf] *phr.v.* **: ♦ hit it off with smb.** *infml* сябрава́ць з кім-н.

**hit out** [ˌhɪtˈaʊt] *phr.v.* **(at)** накі́двацца, напада́ць (*на каго́-н.*); бі́цца, лупі́ць без разбо́ру (*каго́-н.*)

**hit up** [ˌhɪtˈʌp] *phr.v.* **: hit smb. up for smth.** *AmE, infml* пазыча́ць; выпро́шваць у каго́-н. што-н.

**hit-and-miss** [ˌhɪtənˈmɪs] *adj.* недакла́дны, які́ не дае́ вы́нікаў, выпадко́вы, зро́блены абы-я́к

**hit-and-run** [ˌhɪtənˈrʌn] *n.* даро́жнае здарэ́нне, калі́ вінава́ты шафёр уцяка́е

**hitch**[1] [hɪtʃ] *n.* **1.** штуршо́к, рыво́к (*уверх*) **2.** перашко́да, замі́нка, затры́мка; *The party went off without a hitch.* Вечарына прайшла гладка.

**hitch**[2] [hɪtʃ] *v.* **1.** е́здзіць на спадаро́жных машы́нах; *They hitched a ride in a lorry.* Яны пад'ехалі на грузавіку. **2.** прывя́зваць; **hitch the horse to the cart** прывяза́ць каня́ да во́за

**hitch up** [ˌhɪtʃˈʌp] *phr.v.* падцяга́ваць (*штаны, спадніцу і да т.п.*)

**hitchhike** [ˈhɪtʃhaɪk] *v.* падаро́жнічаць аўтасто́пам

**hitchhiker** [ˈhɪtʃhaɪkə] *n.* той, хто падаро́жнічае аўтасто́пам, «хіч-ха́йкер»

**hither** [ˈhɪðə] *adv. dated* сюды́ ♦ **hither and thither** сюды́ і туды́, узад і ўпе́рад; у ро́зных напра́мках

**hitherto** [ˌhɪðəˈtuː] *adv. fml.* да гэ́тага ча́су, да гэ́тае поры́

**Hitlerite** [ˈhɪtləraɪt] *n.* гі́тлеравец; **Hitlerite Germany** гі́тлераўская Герма́нія

**hit-or-miss** [ˌhɪtəˈmɪs] *adj.* = **hit-and-miss**

**hitter** [ˈhɪtə] *n.* **:** *He is a **hard hitter**.* У яго цяжкая рука.

**HIV** [ˌeɪtʃaɪˈviː] *n.* (*скар. ад* **human immunodeficiency virus**) ві́рус імунадэфіцы́ту чалаве́ка, ВІЧ; **be HIV positive** быць ВІЧ-інфіцы́раваным

**hive**[1] [haɪv] *n.* **1.** ву́лей; **hive honey** со́тавы мёд **2.** пчалі́ны рой; **a hive of city activity** гарадскі́ ву́лей (*перан.*)

**hive**[2] [haɪv] *v.* **1.** раі́цца; **hive honey** запаса́ць мёд; **hive wisdom** набіра́цца ро́зуму **2.** жыць ра́зам/гу́ртам/зго́дна

**hive off** [ˌhaɪvˈɒf] *phr.v.* **1.** зрабі́ць но́вы пчалі́ны рой **2.** аддзяля́ць, раздзяля́ць (*фірму, прадпрыемства і да т.п.*)

**HM** *BrE* (*пісьмовае скар. ад* **Her/His Majesty**) Яе́/Яго́ Вялі́касць

**HMG** *BrE* (*пісьмовае скар. ад* **Her Majesty's Government**) ура́д Яе́ Вялі́касці

**hmm** [m, hm] *interj.* хм!; гм!

**HMS** [ˌeɪtʃemˈes] *abbr.* (*скар. ад* **Her/His Majesty's Ship**) вае́нны карабе́ль Вялікабрыта́ніі, брыта́нскі вае́нны карабе́ль

**HNC** [ˌeɪtʃenˈsiː] *n.* (*скар. ад* **Higher National Certificate**) атэста́т вышэ́йшай адука́цыі (*у Вялікабрытаніі*)

**HND** [ˌeɪtʃenˈdiː] *n.* (*скар. ад* **Higher National Diploma**) дыпло́м вышэ́йшай адука́цыі (*у Вялікабрытаніі*)

**hoard**[1] [hɔːd] *n.* запа́с, патае́мны склад (*прадуктаў, грошай і да т.п.*); **a squirrel's hoard of nuts** запа́с арэ́хаў вавёркі

**hoard**[2] [hɔːd] *v.* запа́сіць, назапа́шваць, збіра́ць, прыхо́ўваць (*ежу, грошы і да т.п.*)

**hoarding** [ˈhɔːdɪŋ] *n. BrE* **1.** шчыт для накле́йкі плака́таў, афі́ш і да т.п. **2.** часо́вая агаро́джа вако́л будаўні́чай пляцо́ўкі

**hoar frost** [ˈhɔːfrɒst] *n.* і́ней, шэ́рань

**hoarse** [hɔːs] *adj.* **1.** хры́плы, асі́плы; *I am hoarse.* Я асіп. **2.** гру́бы, рэ́зкі, непрые́мны

**hoary** [ˈhɔːri] *adj. lit.* сівы́

**hoax** [həʊks] *n.* трук, ро́зыгрыш, вы́думка, містыфіка́цыя; **play a hoax** абхітры́ць (*каго-н.*)

**hobbit** [ˈhɒbɪt] *n.* хо́біт (*казачны герой у творах Дж. Толкіна*)

**hobble** [ˈhɒbl] *v.* **1.** кульга́ць, наку́льгваць, чыкільга́ць; *He hobbled along.* Ён ішоў кульгаючы. **2.** спатыка́цца (*на слове*) **3.** стрыно́жваць (*каня*)

**hobby** [ˈhɒbi] *n.* хо́бі, захапле́нне

**hobby horse** [ˈhɒbihɔːs] *n.* **1.** ко́нік (*дзіцячая цацка*) **2.** канёк, захапле́нне; **get on one's hobby horse** гавары́ць на сваю ўлюбёную тэ́му

**hobgoblin** [hɒbˈgɒblɪn] *n.* эльф; дамаві́к; лясу́н; нячы́сцік; фанто́м

**hobnob** [ˈhɒbnɒb] *v. infml* вадзі́ць дру́жбу; зна́цца (*асабліва з кім-н. багатым, знакамітым і да т.п.*)

**Hobson's choice** [ˌhɒbsnzˈtʃɔɪs] *n.* адсу́тнасць вы́бару, вы́бар без вы́бару

**hock**[1] [hɒk] *n.* **1.** шы́нка, кумпя́к **2.** *BrE* бе́лы рэйнве́йн **3.** *infml* закла́д ♦ **be in hock to smb.** быць каму́-н. ві́нным/вінава́тым

**hock**[2] [hɒk] *v. infml* закла́дваць, заклада́ць, аддава́ць у закла́д

**hockey** [ˈhɒki] *n.* хаке́й

**hockey stick** [ˈhɒkiˌstɪk] *n.* клю́шка

**hockey player** [ˈhɒkiˌpleɪə] *n.* хакеі́ст

**hocus-pocus** [ˌhəʊkəsˈpəʊkəs] *n.* ашука́нства, махля́рства, фо́кус-по́кус

**hoe** [həʊ] *n.* маты́ка

**hog** [hɒg] *n.* **1.** парсю́к, вяпру́к; кныр **2.** свіння́ (*лаянка*) ♦ **go the whole hog** *infml* даво́дзіць спра́ву да канца́, рабі́ць што-н. сур'ёзна

**Hogmanay** [ˈhɒgmәneɪ] *n.* (*у Шатландыі*) навaго́дняя ноч, святкава́нне дня Но́вага го́да (*31 снежня*)

**hogwash** [ˈhɒgwɒʃ] *n.* **1.** по́йла **2.** *infml* лухта́, глу́пства

**hoi polloi** [ˌhɔɪpəˈlɔɪ] *n.* **the hoi polloi** *derog.* ма́сы, про́стыя лю́дзі, про́сты наро́д

**hoist** [hɔɪst] *v.* узніма́ць (*сцяг, ветразь*) ♦ **be hoist/hoisted by/with one's own petard** быць пакры́ўджаным, стаць ахвя́рай свайго́ ж тру́ка

**hold¹** [həʊld] *n.* утрыма́нне, захо́п ♦ **catch/get/grab/take (a) hold of smb./smth.** схапі́ць, ухапі́цца за каго́-н./што-н.; **get hold of smb.** заспе́ць каго́-н., нала́дзіць канта́кт з кім-н; **get hold of smth.** даста́ць; даве́дацца, зразуме́ць што-н.; **put on hold** адкла́дваць; **be on hold** быць заня́тым, недасту́пным (*для тэлефоннай размовы*); **take (a) hold** ахапі́ць; *The disease took a hold.* Хвароба наступала.

**hold²** [həʊld] *v.* **(held) 1.** трыма́ць; *We were holding hands.* Мы трымаліся за рукі; *Hold your head up.* Трымай галаву вышэй. **2.** змяшча́ць; *The plane holds about 300 passengers.* Самалёт разлічаны на 300 пасажыраў. **3.** утры́млівацъ; *He was held prisoner for 2 years.* Яго трымалі ў турме 2 гады. **4.** трыма́цца, праця́гвацца; *How long will the fine weather hold?* Як доўга пратрымаецца добрае надвор'е? **5.** право́дзіць (*перагаворы, сход і да т.п.*) **6.** чака́ць; *Hold the line!* Не кідай трубку! ♦ **hold good :** *This argument does not hold good in every case.* Гэты аргумент не заўжды дарэчы; **hold it!** *infml* пачака́й!; не ру́хайся!; **hold your hat!** *infml* ≅ ну, цяпе́р трыма́йся!; **there is no holding smb.** немагчы́ма стрыма́ць каго́-н.

**hold back** [ˌhəʊldˈbæk] *phr.v.* стры́млівацъ, затры́млівацъ; **hold back the enemy** стры́млівацъ на́ціск во́рага; **hold smth. back** уто́йваць што-н. (*пра інфармацыю*); **hold back from doing smth.** мару́дзіць, хіста́цца, вага́цца зрабі́ць што-н.

**hold down** [ˌhəʊldˈdaʊn] *phr.v.* **1.** не дава́ць вы́рвацца, трыма́ць (каго́-н.) ле́жачы **2.** прыгнята́ць, падаўля́ць, трыма́ць у падпара́дкаванні; **hold the inflation down** трыма́ць інфля́цыю на ні́зкім узро́ўні

**hold forth** [ˌhəʊldˈfɔːθ] *phr.v.* развважа́ць; прапаве́даваць

**hold in** [ˌhəʊldˈɪn] *phr.v.* стры́млівацъ; стры́млівацца, маўча́ць

**hold on** [ˌhəʊldˈɒn] *phr.v.* трыма́цца, хапа́цца (*за што-н.*); *Hold on! The road is bumpy!* Трымайся моцна! Дарога няроўная!; **hold on to smth./onto smth.** праця́гваць што-н.; прытры́млівацца чаго́-н.

**hold out** [ˌhəʊldˈaʊt] *phr.v.* **1.** праця́гваць (*руку*) **2.** прапано́ўваць (*шанс/шанц, дапамогу і да т.п.*) **3.** вытры́млівацъ, выжыва́ць; трыма́цца; **hold out against hardships** сто́йка вытры́млівацъ ця́жкасці

**hold over** [ˌhəʊldˈəʊvə] *phr.v.* **1.** адкла́дваць, затры́млівацъ, мару́дзіць; **hold over the rest of the goods** адкла́дваць аста́тнія тава́ры на запа́с **2.** праця́гваць пака́зваць (*фільм, п'есу і да т.п.*)

**hold together** [ˌhəʊldtəˈɡeðə] *phr.v.* **1.** быць адзі́нымі, трыма́цца ра́зам **2.** змацо́ўваць, звя́зваць, аб'ядно́ўваць

**hold up** [ˌhəʊldˈʌp] *phr.v.* **1.** падтры́млівацъ, падпіра́ць **2.** спыня́ць, затры́млівацъ; *The traffic was held up for 15 minutes.* Рух спыніўся на 15 хвілін. **3.** пака́зваць, выстаўля́ць; **hold up as a model** прыво́дзіць як пры́клад **4. : hold up a train** абрабава́ць цягні́к

**holdall** [ˈhəʊldɔːl] *n. BrE* мяшо́к для рэ́чаў

**holdback** [ˈhəʊldbæk] *n.* **1.** перашко́да, затры́мка **2.** замі́нка (*у перамовах*) **3.** вылічэ́нне, утрыма́нне (*зарплаты*)

**holder** [ˈhəʊldə] *n.* **1.** ула́да́льнік; но́сьбіт; **a licence holder** ула́дальнік ліцэ́нзіі; **a prize holder** прызёр **2.** ру́чка, дзяржа́нне; **a cigarette holder** мушту́к

**holding** [ˈhəʊldɪŋ] *n.* **(in) 1.** укла́д; *She has holdings in several companies.* У яе ёсць акцыі некалькіх кампаній. **2.** маёмасць **3.** уча́стак зямлі́ (*асабліва арандаванай*); **small holdings** невялі́кія надзе́лы, прысядзі́бныя ўча́сткі

**holdover** [ˈhəʊldˌəʊvə] *n. AmE* службо́вая асо́ба, пераабра́ная на другі́ тэ́рмін; акцёр, ігро́к, які́ заста́ўся на другі́ тэ́рмін пасля́ заканчэ́ння кантра́кта

**hold-up** [ˈhəʊldʌp] *n.* **1.** зато́р, про́бка (*пра рух*); *What's the hold-up?* Чаму затрымка? **2.** аграбле́нне, рабу́нак

**hole¹** [həʊl] *n.* **1.** дзі́рка, адту́ліна; **a hole in ice** лу́нка, пало́нка; **a hole in the road** упа́дзіна, выбо́іна на даро́зе; **wear into holes** знасі́ць да дзі́рак **2.** я́ма; я́міна; нара́; бярло́г(а) **3.** *infml* глухі́ заку́так, глуш; халу́па **4.** *sport* лу́нка ♦ **in a hole** *infml* у ця́жкім стано́вішчы; *I am always in a hole after holidays.* Я заўжды без капейчыны пасля святаў; **in the hole** *AmE, infml* у пазы́ках; **make a hole in smth.** мо́цна спусто́шыць што-н. (*запасы, кішэнь і да т.п.*)

**hole²** [həʊl] *v.* **1.** свідрава́ць, рабі́ць дзі́ркі, прабіва́ць **2.** заганя́ць мяч у лу́нку (*гольф*)

**hole up** [ˌhəʊlˈʌp] *phr.v. infml* хава́цца ў бярло́зе; быць само́тнікам

**hole in the wall** [ˌhəʊlɪnðəˈwɔːl] *n. infml* **1.** *BrE* банкама́т **2.** *AmE* мале́нькая кра́ма

**holey** [ˈhəʊli] *adj.* дзіра́вы; **a holey dollar** *AustralE, hist.* дзіра́вы до́лар

**holiday¹** [ˈhɒlədeɪ] *n.* **1.** свя́та **2.** *BrE* адпачы́нак; во́дпуск; **be on holiday** быць у адпачы́нку; *Where are you going for a holiday this year?* Куды вы едзеце на адпачынак у гэтым годзе? **3.** *pl.* **holidays** *BrE* кані́кулы

**holiday²** [ˈhɒlədeɪ] *v.* *BrE* адпачыва́ць; право́дзіць во́дпуск, кані́кулы, вака́цыі

**holiday camp** [ˈhɒlədeɪˌkæmp] *n.* *BrE* ке́мпінг, турысты́чны ла́гер

**holidaymaker** [ˈhɒlədeɪˌmeɪkə] *n.* *BrE* адпускні́к, куро́ртнік

**holiness** [ˈhəʊlinəs] *n.* **1.** свя́тасць, свяшчэ́ннасць **2. Holiness** Свя́тасць (*тытул папы*); **His Holiness Pope John Paul** Яго́ Свя́тасць Ян Па́вел

**Hollander** [ˈhɒləndə] *n.* гала́ндзец; гала́ндка

**holler** [ˈhɒlə] *v.* *infml* выкры́кваць; галасі́ць, лямантава́ць; вішча́ць, е́нчыць

**hollow¹** [ˈhɒləʊ] *n.* **1.** упа́дзіна, запа́дзіна, я́ма, я́міна **2.** нізі́на, лог, лагчы́на **3.** дупло́; пячо́ра

**hollow²** [ˈhɒləʊ] *adj.* **1.** пусты́, по́лы; **a hollow tree** дуплі́стае дрэ́ва **2.** запа́лы (*пра шчокі*) **3.** глухі́ (*гук*) **4.** пусты́, няшчы́ры, несур'ёзны; **hollow promises** пусты́я абяца́нні **5.** непатрэ́бны

**hollow³** [ˈhɒləʊ] *v.* **(out)** выдзё́убваць, выко́пваць; *The cave was hollowed out of the hillside.* Пячору зрабілі ў схіле гары.

**holly** [ˈhɒli] *n.* *bot.* па́дуб, вастралі́ст; **holly wreaths** вянкі́ з вастралі́сту (*каляднае ўпрыгажэнне*)

**hollyhock** [ˈhɒlihɒk] *n.* *bot.* ма́льва

**holocaust** [ˈhɒləkɔːst] *n.* **1.** бо́йня, разня́; разбура́льная вайна́ **2. the Holocaust** ма́савае знішчэ́нне яўрэяў нацы́стамі, халако́ст

**holster** [ˈhəʊlstə] *n.* кабура́

**holy** [ˈhəʊli] *adj.* святы́; **holy bread** про́свіра, прасві́рка; **holy water** свята́я вада́; **Holy Land** Свята́я зямля́ (*Палесціна*); **Holy City** свяшчэ́нны го́рад (*Іерусалім, Рым і да т.п.*)

**Holy Communion** [ˌhəʊlikəˈmjuːniən] *n.* *eccl.* свято́е прыча́сце

**Holy Father** [ˌhəʊliˈfɑːðə] *n.* **the Holy Father** Яго́ Свя́тасць (*Рымскі Папа*)

**Holy Ghost** [ˌhəʊliˈgəʊst] *n.* **the Holy Ghost** Святы́ Дух

**Holy Grail** [ˌhəʊliˈgreɪl] *n.* **the Holy Grail** *eccl.* Святы́ Граа́ль

**holy of holies** [ˌhəʊliəvˈhəʊliz] *n.* **: the holy of holies** *eccl.* свята́я святы́х (*самы святы пакой*); святы́ня

**holy orders** [ˌhəʊliˈɔːdəz] *n. pl. eccl.* свята́рства; пасвячэ́нне ў духо́ўны сан

**Holy Spirit** [ˌhəʊliˈspɪrɪt] *n.* **the Holy Spirit** Святы́ Дух

**Holy Trinity** [ˌhəʊliˈtrɪnəti] *n. relig.* Свята́я Тро́іца

**Holy Week** [ˈhəʊliˌwiːk] *n. eccl.* перадвяліко́дны ты́дзень, Вялі́кі Ты́дзень

**homage** [ˈhɒmɪdʒ] *n.* *fml* пава́га, паша́на; блаславе́нне; **pay/do/render homage** аддава́ць нале́жнае; ушано́ўваць

**home¹** [həʊm] *n.* **1.** дом, жыллё; **make a home for smb.** прытулі́ць каго́-н. **2.** ро́дны дом, ро́дны кут; радзі́ма; **ancestral home** бацько́ўскі дом; **feel a longing for home** сумава́ць па ро́дных мя́сцінах **3.** сям'я́; сяме́йнае жыццё; *She comes from a poor home.* Яна родам з беднай сям'і. **4.** прыту́лак; пансіяна́т; **a children's home** дзетдо́м; **a dog's home** прыту́лак для бяздо́мных саба́к; **an old people's home** дом для састарэ́лых; **a rest home** дом адпачы́нку ♦ **at home** 1) до́ма 2) лёгка, во́льна, камфо́ртна; *Make yourself at home.* Адчувайце сябе як дома. 3) у сваёй краі́не, ро́дным го́радзе і да т.п.; *The Prime Minister is not as popular at home as he is abroad.* Прэм'ер-міністр не так папулярны ў сваёй краіне, як за мяжой; **a home from home** *BrE*/**a home away from home** *AmE* другі́ дом; **feel at home with smth.** до́бра ве́даць што-н.; *She feels at home with English.* Яна добра валодае англійскай мовай.

**home²** [həʊm] *adj.* **1.** ха́тні, дама́шні; **a home address** ха́тні, дама́шні а́драс; **home lessons** ха́тняе, дама́шняе зада́нне **2.** сяме́йны; **home interests** інтарэ́сы сям'і́ **3.** ро́дны, свой; **a home town** ро́дны го́рад **4.** уну́траны; **home politics** уну́траная палі́тыка

**home³** [həʊm] *v.* **: home in on smth.** 1) накіро́ўвацца, нацэ́львацца 2) засяро́джвацца; *I was homing in on the answer.* Я сканцэнтраваўся на адказе.

**home⁴** [həʊm] *adv.* **1.** до́ма; дамо́ў, дадо́му, даха́ты; *Is she home yet?* Яна дома? **2.** у цэль, у са́мую кро́пку; *The remark went home.* Заўвага патрапіла ў цэль. ♦ **bring/come home to smb.** тлума́чыць каму́-н., даво́дзіць да свядо́масці каго́-н., дахо́дзіць да чыёй-н. свядо́масці; **hit/strike home** зразуме́ць, дапя́ць; дайсці́ (*да чыёй-н. свядомасці*)

**homecoming** [ˈhəʊmˌkʌmɪŋ] *n.* **1.** вярта́нне дамо́ў (здалёк) **2.** *AmE* вечары́на сустрэ́чы выпускніко́ў

**Home Counties** [ˌhəʊmˈkaʊntiz] *n. pl.* **the Home Counties** гра́фствы, які́я прылягаю́ць да Ло́ндана

**home help** [ˌhəʊmˈhelp] *n. BrE* ха́тняя рабо́тніца (*якая прыходзіць дапамагаць*)

**homeland** [ˈhəʊmlænd] *n.* радзі́ма, ба́цькаўшчына

**homeless** [ˈhəʊmləs] *adj.* бяздо́мны, беспрыту́льны; **the homeless** бяздо́мныя, бадзя́гі

**homely** [ˈhəʊmli] *adj.* **1.** *BrE* дама́шні, уту́льны **2.** про́сты, звыча́йны; сці́плы; **a dear little homely woman** мі́лая прастаду́шная жанчы́на **3.** *AmE* непрыго́жы, несамаві́ты, нязгра́бны

**home-made** [ˌhəʊmˈmeɪd] *adj.* **1.** ха́тняга вы́рабу/прыгатава́ння; самаро́бны; **home-made jam** ха́тняе/дама́шняе варэ́нне **2.** айчы́ннай вытво́рчасці

**Home Office** [ˈhəʊmˌɒfɪs] *n.* **: the Home Office** Міністэ́рства ўну́траных спраў (*у Вялікабрытаніі*)

**homeopathy** [ˌhəʊmiˈɒpəθi] *n. med.* гамеапа́тыя

**Home Secretary** [ˌhəʊmˈsekrətri] *n.* міні́стр уну́траных спраў (*у Вялікабрытаніі*)

**homesick** [ˈhəʊmsɪk] *adj.* **: be homesick** сумава́ць, тужы́ць па до́ме, па радзі́ме

**homesickness** [ˈhəʊmsɪknəs] *n.* туга́ па ба́цькаўшчыне, настальгі́я

**homestead** [ˈhəʊmsted] *n.* сядзі́ба; фе́рма; сяля́нскі дом; ху́тар

**hometown** [ˌhəʊmˈtaʊn] *n.* ро́дны го́рад

**home truth** [ˌhəʊmˈtruːθ] *n.* го́ркая пра́ўда

**homeward** [ˈhəʊmwəd] *adj.* даха́ты, дадо́му; на радзі́му

**homework** [ˈhəʊmwɜːk] *n.* **1.** ха́тняе, дама́шняе зада́нне, уро́кі (*школьніка*); **do homework** вучы́ць уро́кі **2.** надо́мная пра́ца, самату́жны про́мысел

**homey** [ˈhəʊmi] *adj.* прые́мны, уту́льны; **feel homey** адчува́ць сябе́ як до́ма

**homicide** [ˈhɒmɪsaɪd] *n. law* забо́йства; **a felonious homicide** наўмы́снае забо́йства; **an excusable homicide** ненаўмы́снае забо́йства

**homily** [ˈhɒməli] *n. fml* павуча́нне, настаўле́нне; про́паведзь

**homing** [ˈhəʊmɪŋ] *adj.* які́ вярта́ецца дамо́ў (*звыч. пра птушак, жывёл і да т.п.*); **a homing instinct** інсты́нкт вярта́ння дамо́ў; **a homing pigeon** пашто́вы го́луб

**homoeopathy** [ˌhəʊmiˈɒpəθi] *n.* = **homeopathy**

**homogeneous** [ˌhɒməˈdʒiːniəs] *adj. fml* гамаге́нны, аднаро́дны

**homograph** [ˈhɒməɡrɑːf] *n. ling.* амо́граф

**homonym** [ˈhɒmənɪm] *n. ling.* амо́нім

**homophone** [ˈhɒməfəʊn] *n. ling.* амафо́н

**Homo sapiens** [ˌhəʊməʊˈsæpienz] *n.* го́ма са́піенс, чалаве́к як разу́мнае стварэ́нне

**homosexual** [ˌhəʊməˈsekʃuəl] *adj.* гомасексуа́льны

**homy** [ˈhəʊmi] *adj.* = **homey**

**hone** [həʊn] *v.* вастры́ць (*брытву*); палірава́ць; **hone skills** адто́чваць уме́нні, удаскана́льваць майстэ́рства

**honest** [ˈɒnɪst] *adj.* **1.** сумле́нны, добрасумле́нны; **honest means** зако́нныя сро́дкі **2.** прамы́, шчы́ры, адкры́ты; **an honest answer** шчы́ры адка́з ♦ **honest to God/goodness!** кляну́ся!; дальбо́г!

**honestly** [ˈɒnɪstli] *adv.* **1.** шчы́ра, чэ́сна; *I can honestly say…* Я магу шчыра сказаць... **2.** пра́ўда, дальбо́г; шчы́ра ка́жучы; *Honestly, I didn't tell anyone!* Праўда, я нікому не сказаў! **3.** *infml* (*перадае незадаволенасць*) як гэ́та (так); *Honestly! Whatever will you think of next?* Што яшчэ прыдумаеш, на самай справе?

**honesty** [ˈɒnəsti] *n.* сумле́ннасць; шчы́расць, адкры́тасць ♦ **honesty is the best policy** сумле́ннасць – ле́пшая палі́тыка; **in all honesty** шчы́ра ка́жучы

**honey** [ˈhʌni] *n.* **1.** мёд; **wild/comb honey** дзі́кі/со́тавы мёд **2.** *infml* (*ужываецца як ласкавы зварот*) дарагі́; дарага́я; галубо́к; галу́бка, лю́бачка, я́сачка **3.** *infml* цуд; *That job is a real honey!* Цуд, а не работа!

**honeycomb** [ˈhʌnikəʊm] *n.* мядо́выя со́ты, вашчы́на

**honeydew** [ˈhʌnidjuː] *n. poet.* нектáр

**honeymoon** [ˈhʌnimuːn] *n.* мядо́вы ме́сяц; **go for a honeymoon** паехаць у шлю́бнае падаро́жжа

**honeysuckle** [ˈhʌnisʌkl] *n. bot.* бружме́ль

**honk** [hɒŋk] *n.* **1.** крык/го́гат дзі́кіх гусе́й **2.** аўтамабі́льны гудо́к

**honor** [ˈɒnə] *AmE* = **honour[1]**

**honorable** [ˈɒnərəbl] *AmE* = **honourable**

**honorary** [ˈɒnərəri] *adj.* **1.** ганаро́вы (*пра ступень, званне*) **2.** пачэ́сны, шано́ўны, пава́жаны

**honour[1]** [ˈɒnə] *n.* **1.** го́нар; **the guest of honour** ганаро́вы госць; **a man of honour** шляхе́тны чалаве́к **2.** *pl.* **honours** ушанава́нні; **the New Year's honours list** спіс ушанава́ных на Но́вы год **3.** *pl.* **honours** адзна́ка (вышэ́йшая); **honours degree** дыпло́м з адзна́кай, «чырво́ны дыпло́м» **4.** сла́ва, паша́на; **His/Her/Your Honour** Яго́/Яе́/Ва́ша вялі́касць ♦ **do smb. an honour** *fml* рабі́ць го́нар, рабі́ць ла́ску; **do the**

**honours** прыма́ць гасце́й; **in honour of smb./smth.** у знак пава́гі да каго́-н./чаго́-н.; у го́нар

**honour**[2] [ˈɒnə] *v.* **1.** шанава́ць; паважа́ць; *I feel highly honoured.* Дзякую за пашану. **2. (with)** ушано́ўваць, уганаро́ўваць; *He was honoured with a Nobel prize for Literature.* Яму прысудзілі Нобелеўскую прэмію за дасягненні ў літаратуры.

**honourable** [ˈɒnərəbl] *adj.* **1.** сумле́нны; высакаро́дны **2.** пачэ́сны, ганаро́вы; **an honourable duty** пачэ́сны абавя́зак **3.** шано́ўны, паважа́ны; высокашано́ўны, высокапаважа́ны; **the/my Honourable Alan Simpson** шано́ўны А́лан Сі́мпсан

**Hons** [ɒnz] *BrE* (*скар. ад* **honours**) (*ужываецца пасля ўніверсітэцкай ступені*); **Tom Brown BA (Hons)** Том Браўн – бакала́ўр гуманіта́рных наву́к

**hood** [hʊd] *n.* **1.** капюшо́н, капту́р **2.** складны́ верх (*аўтамабіля*); *AmE* капо́т

**hoodwink** [ˈhʊdwɪŋk] *v.* падма́нваць, ашу́кваць, абду́рваць

**hoof**[1] [hu:f] *n.* (*pl.* **hoofs** *or* **hooves**) капы́т ♦ **on the hoof** 1) жывы́м, жыўцо́м; **10 cents a pound on the hoof** 10 цэ́нтаў за фунт жыво́й вагі́ 2) *BrE, infml* про́ста; у звыча́йных абста́вінах

**hoof**[2] [hu:f] *v.* **1.** біць або́ таптаць капыта́мі **2. :** ♦ **hoof it** *infml* ісці́ пе́шшу, шыбава́ць

**hook**[1] [hʊk] *n.* крук, кручо́к; **a hook and eye** кручо́к, аплі́к (*засцежка*) ♦ **by hook or by crook** любо́й цано́й, так ці іна́кш; **get (smb.) off the hook/let smb. off the hook** вы́зваліць (каго́-н.) з бяды́; **hook, line and sinker** зусі́м, ца́лкам; **take the telephone off the hook** зняць тэлефо́нную тру́бку (*каб ніхто не званіў*)

**hook**[2] [hʊk] *v.* **1.** выгіна́цца **2.** лаві́ць на кручо́к, падчапі́ць (*што-н.*); **hook a fish** злаві́ць ры́бу; *She has hooked a husband.* Яна падчапіла сабе мужа.

**hook up** [ˌhʊkˈʌp] *phr.v.* устана́ўліваць, манці́раваць; **hook up a telephone** устанаві́ць тэлефо́н; **hook up the gas** падключы́ць газ

**hooked** [hʊkt] *adj.* **1.** кручкава́ты, крывы́; **a hooked beak** кручкава́тая дзю́ба **2. (on)** *infml* зале́жны (*ад чаго-н.*); *He is hooked on morphine.* Ён марфініст. **3.** *infml* які́ ве́льмі лю́біць рабіць (*што-н.*); заўзя́ты; *He is hooked on TV.* Яго не адарвеш ад тэлевізара.

**hook-nosed** [ˌhʊkˈnəʊzd] *adj.* з кручкава́тым но́сам; з ястрабі́ным но́сам

**hooligan** [ˈhu:lɪgən] *n.* хулігáн; хуліга́нка

**hooliganism** [ˈhu:lɪgənɪzəm] *n.* хуліга́нства

**hoop** [hu:p] *n.* **1.** во́бад, абру́ч **2.** абру́ч (*цацка*); **go/jump through (the) hoop(s)** скака́ць праз абру́ч (*пра жывёл у цырку*)

**hooper** [ˈhu:pə] *n.* бо́ндар

**hooping cough** [ˈhu:pɪŋˌkɒf] *n. med.* ко́клюш

**hoopla** [ˈhu:plɑ:] *n.* **1.** *infml* шумі́ха; мітусня́; тарара́м, вэ́рхал, гармі́дар; **a great hoopla of propaganda** крыклі́вая прапаганды́сцкая кампа́нія **2.** ко́льцы (*гульня – накідванне кольцаў на прадметы, якія разыгрываюцца*)

**hooray** [huˈreɪ] *interj.* ура́! (*перадае радасць або адабрэнне*)

**hoot**[1] [hu:t] *n.* **1.** крык (*савы*) **2.** гудо́к, сігна́л **3.** крык, гвалт, ля́мант ♦ **not care/give two hoots** *infml* **:** *I don't care a hoot.* Мне на гэта напляваць.

**hoot**[2] [hu:t] *v.* **1.** крыча́ць, ву́хкаць (*пра саву*) **2.** крыча́ць (*на каго-н.*), ашы́кваць, асві́стваць; **hoot an actor** асві́стваць акцёра **3.** *BrE* гудзе́ць, гусці́, свіста́ць, выць (*пра гудок, сірэну і да т.п.*)

**hooter** [ˈhu:tə] *n. BrE, dated* сірэ́на, гудо́к, свісто́к

**hoover** [1] [ˈhu:və] *n. BrE* пыласо́с

**hoover**[2] [ˈhu:və] *v. BrE* пыласо́сіць, чы́сціць пыласо́сам

**hooves** [hu:vz] *pl.* → **hoof**[1]

**hop**[1] [hɒp] *n. bot.* хмель

**hop**[2] [hɒp] *n.* **1.** скачо́к, падско́к, падско́кванне **2.** *infml, dated* танцу́лькі, вечары́на, ско́кі

**hop**[3] [hɒp] *v.* **1.** скака́ць на адно́й назе́ (*пра чалавека*); скака́ць (*пра птушак*) **2.** *infml* уско́кваць; *Hop in, I'll drive you home.* Заскоквай, давязу дамоў. **3.** *AmE* садзі́цца, сяда́ць (*на аўтобус, цягнік і да т.п.*) ♦ **hop to it** *AmE* спяша́цца

**hope**[1] [həʊp] *n.* **1.** надзе́я, спадзява́нне; **cherish hopes** пе́сціць надзе́ю; **lose (all) hope** згубі́ць надзе́ю; **raise smb.'s hopes** абнадзе́йваць каго́-н. **2.** той, на каго́ спадзяю́цца; *You are my last hope.* Ты мая апошняя надзея. ♦ **hold out little hope** мець сла́бую надзе́ю; **in the hope of smth.** у чака́нні чаго́-н.; **past/beyond (all) hope** у безнадзе́йным стано́вішчы

**hope**[2] [həʊp] *v.* **(for)** спадзява́цца ♦ **hope against hope** спадзява́цца на цуд насу́перак абста́вінам; **hope for the best** спадзява́цца на ле́пшае; **I should hope so** *infml* спадзяю́ся (што так); **I should hope not** *infml* спадзяю́ся, што не

**hopeful** [ˈhəʊpfəl] *adj.* **1. (of/about)** по́ўны надзе́і; той, хто спадзяе́цца; *I feel hopeful that…* Я спадзяюся, што…; **be hopeful of success** спадзява́цца на по́спех **2.** шматабя-

ца́льны, які́ падае́ надзе́і; **a hopeful smile** шматабяца́льная ўсме́шка

**hopefully** [ˈhəʊpfəli] *adv.* **1.** абнадзе́йліва, спрыя́льна, прыхі́льна **2.** трэ́ба спадзява́цца; *Hopefully, we'll be there soon.* Спадзяюся, мы хутка будзем на месцы.

**hopeless** [ˈhəʊpləs] *adj.* **1.** безнадзе́йны, безвыхо́дны, бесперспекты́ўны; **hopeless illness** невылéчная хваро́ба **2. (about, of, for)** які́ стра́ціў надзе́ю, у адча́і; *He is hopeless for the future.* Ён не мае надзеі на будучае. **3.** *infml* ніку́ды не ва́рты, безнадзе́йна ке́пскі; *You are hopeless!* Цябе ўжо не выправіш!

**hopper** [ˈhɒpə] *n.* **1.** скаку́н (*пра чалавека і пра каня*); скаку́ха **2.** скакуне́ц, палявы́ ко́нік **3.** *AustralE* кенгуру́ **4.** *tech.* ле́йка **5.** *AmE* самазва́л, грузаві́к-самазва́л, ваго́н-самазва́л

**hopscotch** [ˈhɒpskɒtʃ] *n.* гульня́ ў кла́сікі

**horde** [hɔːd] *n.* **1.** арда́; **Golden Horde** *hist.* Залата́я арда́ **2.** арда́; ша́йка, згра́я, ба́нда; нато́ўп людзе́й

**horizon** [həˈraɪzn] *n.* **1.** гарызо́нт, далягля́д, небасхі́л; **on the horizon** на гарызо́нце **2.** гарызо́нт, кругагля́д, ко́ла ве́даў; **broaden one's horizons** пашы́рыць кругагля́д **3.** *pl.* **horizons** перспекты́вы, гарызо́нты ♦ **on the horizon** то́е, што ху́тка адбу́дзецца

**horizontal** [ˌhɒrɪˈzɒntl] *adj.* гарызанта́льны

**hormone** [ˈhɔːməʊn] *n. physiol.* гармо́н; **hormone replacement therapy** замяшча́льная гармонатэрапі́я

**horn** [hɔːn] *n.* **1.** рог; **shed horns** скіда́ць ро́гі **2.** рог, ражо́к, горн; **a French horn** валто́рна; **blow/wind/sound the horn**ігра́ць на ражку́, трубі́ць у рог **3.** кла́ксан (*аўтамабіля*); **sound one's horn** сігна́ліць

**horned** [hɔːnd] *adj.* рага́ты; **a horned elk** рага́ты лось; **a horned moon** рага́ты ме́сяц, паўме́сяц

**hornet** [ˈhɔːnɪt] *n. zool.* аса́; шэ́ршань; **a hornet's nest** асі́нае гняздо́

**horny** [ˈhɔːni] *adj.* **1.** рагавы́; **horny substance** рагаво́е рэ́чыва **2.** мазо́лісты, гру́бы, жо́рсткі; **horny hands** мазо́лістыя ру́кі **3.** *infml* сексапі́льны; **look horny** выгляда́ць сексуа́льна **4.** *infml* сексуа́льна ўзбу́джаны

**horoscope** [ˈhɒrəskəʊp] *n.* гараско́п

**horrendous** [hɒˈrendəs] *adj.* страшэ́нны, жахлі́вы, жу́дасны

**horrible** [ˈhɒrəbl] *adj.* жахлі́вы, жу́дасны; **horrible weather** жахлі́вае надво́р'е; **a horrible nightmare** жу́дасны кашма́р

**horrid** [ˈhɒrɪd] *adj. dated or infml* брыдкі, агі́дны; жахлі́вы, страшэ́нны; *What a horrid idea!* Якая жудасная думка!

**horrific** [həˈrɪfɪk] *adj.* жахлі́вы, здо́льны выклі́каць страх; ве́льмі ке́пскі; *He had a horrific trip.* У яго было жудаснае падарожжа.

**horrify** [ˈhɒrɪfaɪ] *v.* пало́хаць, жаха́ць; шакі́раваць, абура́ць; *It horrified her to think that he had been prisoned.* Ёй страшна было падумаць, што яго забралі ў турму.

**horrifying** [ˈhɒrɪfaɪɪŋ] *adj.* жахлі́вы, страшэ́нны; **horrifying scenes** страшэ́нныя сцэ́ны

**horror** [ˈhɒrə] *n.* **1.** жах; жу́дасць; **in horror** у жу́дасным ста́не; **to his horror** яму́ на страх **2.** *pl.* **horrors** жа́хі, жахлі́выя трагі́чныя здарэ́нні; **the horrors of war** жа́хі вайны́; **a horror film** фільм жа́хаў **3.** *infml* жах, не́шта непрые́мнае, агі́днае, сме́шнае; *Her son is a little horror.* Яе сын – нейкае гора. ♦ **horror of horrors** *BrE, iron.* горш не быва́е

**hors d'oeuvre** [ˌɔːˈdɜːv] *n. франц.* заку́ска

**horse** [hɔːs] *n.* **1.** конь; **a riding horse** верхавы́ конь; **a school(ed) horse** цыркавы́ конь; **the Trojan horse** *myth.* трая́нскі конь; **ride a horse** е́хаць на кані́ **2.** *pl.* **the horses** *infml* ска́чкі ♦ **(straight) from the horse's mouth** *infml* з пе́ршых рук, з надзе́йных крыні́ц (*пра інфармацыю*); **hold your horses!** *infml* не хвалю́йся!; **enough to make a horse laugh** ≅ кура́м на смех; **I could eat a horse**. ≅ Я з'ем і быка.

**horseback¹** [ˈhɔːsbæk] *n.* **: on horseback** ве́рхам, ко́нна

**horseback²** [ˈhɔːsbæk] *adj., adv. AmE, infml* імправізава́ны; жа́ртам

**horsebox** [ˈhɔːsbɒks] *n. BrE* трэ́йлер або́ фурго́н для ко́ней

**horse chestnut** [ˌhɔːsˈtʃesnʌt] *n. bot.* кашта́н ко́нскі

**horseman** [ˈhɔːsmən] *n.* (*pl.* **-men**) ко́ннік, ве́ршнік, яздо́к

**horseplay** [ˈhɔːspleɪ] *n.* гру́быя жа́рты/заба́вы; шу́мная гульня́, валтузня́

**horsepower** [ˈhɔːsˌpaʊə] *n. phys.* ко́нская сі́ла; **a car with a 170 horsepower engine** машы́на з мато́рам у 170 ко́нскіх сіл

**horse racing** [ˈhɔːsˌreɪsɪŋ] *n.* ко́нны спорт, ска́чкі

**horseradish** [ˈhɔːsˌrædɪʃ] *n. bot.* хрэн

**horseshoe** [ˈhɔːsʃuː] *n.* падко́ва

**horsey** [ˈhɔːsi] *adj.* **1.** ама́тар ко́ннага спо́рту **2.** падо́бны да каня́

**horticulture** [ˈhɔːtɪkʌltʃə] *n.* садо́ўніцтва, агародніцтва

**hose¹** [həʊz] *n.* (*pl.* **hose**) **1.** *BrE* рука́ў, кішка́ (*для палівання*); шланг, брандспо́йт **2.** 1) панчо́шныя вы́рабы; трыката́жная бялі́зна 2) панчо́хі; шкарпэ́ткі «гольф» **3.** рэйту́зы; ласі́ны

**hose²** [həʊz] *v.* палівáць са шлáнга; *Firemen hosed the burning house.* Пажарныя затушылі дом вадой са шланга.
**hose down** [ˌhəʊzˈdaʊn] *phr.v.* вы́мыць (*што-н.*) струмéнем вады́; *My children hose down the car every week for me.* Мае дзеці кожны тыдзень мыюць маю машыну са шланга.
**hosiery** [ˈhəʊziəri] *n.* трыкатáжныя вы́рабы
**hospice** [ˈhɒspɪs] *n.* хóспіс, шпітáль для безнадзéйных пацыéнтаў
**hospitable** [hɒˈspɪtəbl, ˈhɒspɪtəbl] *adj.* **1. (to/towards)** гасці́нны **2.** *fml* спрыя́льны, зру́чны; **a hospitable climate** спрыя́льны клі́мат
**hospital** [ˈhɒspɪtl] *n.* бальні́ца, шпітáль; **go to hospital** *BrE*/**go to the hospital** *AmE* лéгчы ў бальні́цу; **be discharged from (the) hospital** быць вы́пісаным з бальні́цы
**hospitality** [ˌhɒspɪˈtæləti] *n.* гасці́ннасць; **show smb. hospitality** гасці́нна, сардэ́чна прымáць кагó-н.; **partake of His/Her Majesty's hospitality** *iron.* быць на ўтрымáнні ягó/яé вялі́касці, сядзéць у турмé
**hospitalize,** *BrE* **-ise** [ˈhɒspɪtəlaɪz] *v.* шпіталізавáць
**host¹** [həʊst] *n.* **1.** гаспадáр; **a host country** краі́на, якáя прымáе гасцéй; **play host to smb.** прымáць гасцéй **2.** вяду́чы, канферансьé (*на радыё, тэлебачанні*) **3.** *comput.* галóўны камп'ютар, цэнтрáльны працэ́сар **4. (of)** мнóства, прóцьма, бéзліч; **a host of children** ку́ча дзяцéй
**host²** [həʊst] *v.* **1.** прымáць гасцéй, быць за гаспадарá; **host the VIPs around the town** пакáзваць гóрад вáжным гасця́м **2.** быць у рóлі вяду́чага (*тэле- або радыёпраграмы*)
**hostage** [ˈhɒstɪdʒ] *n.* залóжнік; **take smb. hostage** узя́ць кагó-н. у залóжнікі; **hold smb. hostage** трымáць кагó-н. у залóжніках ♦ **hostages to fortune** жóнка і дзéці; сáмыя блі́зкія
**hostel** [ˈhɒstl] *n.* **1.** інтэрнáт **2.** турысты́чны лáгер; турбáза
**hostess** [ˈhəʊstəs] *n.* **1.** гаспады́ня **2.** сцюардэ́са (*самалёта*); супрацóўніца, якáя сустракáе гасцéй (*у рэстаране, начным клубе і да т.п.*) **3.** вяду́чая прагрáмы (*на радыё і тэлебачанні*)
**hostile** [ˈhɒstaɪl] *adj.* **1.** варóжы; **a hostile army** áрмія праці́ўніка **2. (to/towards)** непрыхі́льны, непрыя́зны; **a hostile reception** ледзяны́ прыём; **be hostile to smb./smth.** прымáць кагó-н./штó-н. у штыкí; адмóўна стáвіцца да кагó-н./чагó-н.
**hostility** [hɒˈstɪləti] *n.* **1. (to/towards)** варóжасць, антагані́зм; *There was open hostility between the two sides.* Паміж двума бакамі была непрыхаваная варожасць. **2.** *pl.* **hostilities** *fml* ваéнныя дзéянні; **an outbreak/a cessation of hostilities** пачáтак/заканчэ́нне ваéнных дзéянняў
**hot¹** [hɒt] *adj.* **1.** гарáчы; *I am hot.* Мне горача. **2.** гарáчы, стрáсны; **a hot temper** запáльчывасць; **be hot on smth.** вéльмі захапля́цца чым-н. **3.** гарáчы, напру́жаны; **a hot time** гарáчыя дзянькí; **a hot issue** злабадзённае пытáнне **4.** свéжы, нядáўна атры́маны (*пра навіны*); **a story that is hot off the press** сенсацы́йнае паведамлéнне, тóлькі што надрукавáнае **5.** вóстры, з пéрцам; пяку́чы; **hot ointment** пяку́чая мазь **6.** я́ркі, рэ́зкі, крыклі́вы (*пра колер*); **hot yellow** ядаві́та-жóўты ♦ **get into hot water** *infml* трáпіць у бяду́; **go/sell like hot cakes** дóбра распрадавáцца; **be hot on smb.'s heels** ісці́ слéдам за кім-н.; **hot under the collar** *infml* узвар'явáны, абу́раны, раз'ю́шаны; **not so/too hot** не вéльмі дóбрай я́касці
**hot²** [hɒt] *v. infml* разагравáць, падагравáць
**hot up** [ˌhɒtˈʌp] *phr.v. infml* распáльваць; фарсі́раваць, узмацня́ць; узмацня́цца; **hot up a campaign** раздувáць кампáнію
**hot air** [ˌhɒtˈeə] *n. infml* пустазвóнства, выхвáльства; ашукáнства
**hotbed** [ˈhɒtbed] *n.* **1.** парні́к **2.** ачáг (*захворвання*), рассáднік (*злачынстваў, распусты і да т.п.*)
**hot-blooded** [ˌhɒtˈblʌdɪd] *adj.* **1.** стрáсны, пáлкі **2.** запáльчывы, гарáчы
**hotchpotch** [ˈhɒtʃpɒtʃ] *n. infml* мешані́на, усяля́кая ўся́чына
**hot dog** [ˈhɒtdɒg] *n.* **1.** бу́лачка з гарáчай сасі́скай, «хóт-дог» **2.** *AmE* лóўкі спартсмéн (*які эфектна выконвае складаныя практыкаванні, трукі і да т.п.*)
**hot-dog** [ˈhɒtdɒg] *v.* эфéктна выкóнваць складáныя практыкавáнні, тру́кі і да т.п.
**hotel** [həʊˈtel] *n.* гатэ́ль, гасці́ніца; **stay in/at a hotel** спыні́цца ў гатэ́лі; **a luxary/five-star hotel** гатэ́ль люкс/пяцізóркавы гатэ́ль; **a family-run hotel** прывáтны гатэ́ль
**hotelier** [həʊˈteliə] *n.* гаспадáр гатэ́ля
**hotfoot¹** [ˈhɒtfʊt] *v.* **:** ♦ **hotfoot it** *infml* бéгчы як жáру ўхапі́ўшы/як з жáрам у нагаві́цах, нéсціся з усі́х ног
**hotfoot²** [ˈhɒtfʊt] *adv.* ху́тка, паспéшліва; стрымгалóў
**hothead** [ˈhɒthed] *n.* гарáчы, імпульсі́ўны чалавéк, «гарáчая галавá»

**hothouse** [ˈhɒthaʊs] *n.* аранжарэ́я, парні́к, цяплі́ца; **a hothouse plant** цяплі́чная раслі́на; **a hothouse effect** *phys.* парніко́вы эфе́кт

**hotly** [ˈhɒtli] *adv.* **1.** го́рача, рэ́зка, запа́льчыва; *They argued hotly.* Яны горача спрачаліся. **2.** усхвалява́на, стра́сна

**hotplate** [ˈhɒtpleɪt] *n.* канфо́рка электрапліты́ або́ га́завай пліты́

**hotpot** [ˈhɒtpɒt] *n. BrE* тушо́нка (*з мяса і гароднiны*)

**hot-tempered** [ˌhɒtˈtempəd] *adj.* гара́чы, запа́льчывы, ху́ткі на злосць

**hot-water bottle** [ˌhɒtˈwɔːtəˌbɒtl] *n.* грэ́лка

**hound**[1] [haʊnd] *n.* паляўні́чы саба́ка; ганча́к

**hound**[2] [haʊnd] *v.* цкава́ць саба́камі; праслéдаваць; гна́цца; **hound smb. out of smth./hound smb. from smth.** выжыва́ць каго́-н. адку́ль-н., выганя́ць з га́ньбаю

**hour** [ˈaʊə] *n.* **1.** гадзі́на; **in an hour** праз гадзі́ну; **half an hour** паўгадзі́ны; **by the hour** пагадзі́нна; **an hour and a half** паўтары́ гадзі́ны; **within an hour** за гадзі́ну або́ менш **2.** час, перы́яд, тэ́рмін; **dinner hour** час абе́ду **3.** *pl.* **hours** час пра́цы; праца́ўны дзень; *Opening hours are from 10 to 6 each day.* Адчынена з 10.00 да 18.00 кожны дзень; **after hours** пасля́ рабо́ты; **out of hours** у непрацо́ўны час, у во́льны ад пра́цы час ♦ **all hours** уве́сь час, у любы́ час; **keep good hours** ра́на ўстава́ць і ра́на кла́сціся спаць; **keep late hours** по́зна кла́сціся спаць; **the small/early hours** зусі́м ра́на, з са́мага ра́нку

**hourly**[1] [ˈaʊəli] *adj.* які́ здара́ецца ко́жную гадзі́ну; *There's an hourly bus here.* Аўтобусы тут ходзяць кожную гадзіну; **an hourly rate of pay** пагадзі́нная аплáта

**hourly**[2] [ˈaʊəli] *adv.* штогадзі́ны; *The pills are to be taken hourly.* Таблеткі трэба прымаць раз у гадзіну.

**house**[1] [haʊs] *n.* **1.** дом, буды́нак; **an apartment house** шматкватэ́рны дом; **a detached house** асабня́к **2.** дом, жыллё, кватэ́ра; **a house in the country** вяско́вы дом; да́ча, ле́цішча **3.** (свой) дом, сям'я́, гаспада́рка; **have neither house nor home** ≅ не мець ні ха́ты, ні лапа́ты **4.** буды́нак (*для чаго-н.*); **an Opera House** о́перны тэáтр **5.** пала́та (*у парламенце*); **the House of Lords** пала́та ло́рдаў **6.** тэа́тр, кінатэа́тр; *The house was full.* Тэатр быў поўны. ♦ **bring the house down** вы́клікаць гром апладысме́нтаў, вы́бух сме́ху і да т.п.; **get on like a house on fire** *BrE, infml* пасябрава́ць ху́тка і лёгка; **go all round the houses** *BrE, infml* не гавары́ць пра́ма, вадзі́ць за нос; **keep house** ве́сці ха́тнюю гаспада́рку; **on the house** бяспла́тна, за кошт устано́вы (*бара, рэстарана і да т.п.*); **put/set one's (own) house in order** прыве́сці свае́ спра́вы ў пара́дак; **set up house** пасялі́цца

**house**[2] [haʊs] *v.* **1.** даць жыллё, забяспе́чыць жыллём; *This block of flats can house 50 families.* У гэтым доме могуць жыць 50 сем'яў. **2.** прытулі́ць, даць прыту́лак; *The museum is housed in the former estate of the writer.* Музей знаходзіцца ў былой сядзібе пісьменніка.

**houseboat** [ˈhaʊsbəʊt] *n.* плыву́чы дом; ло́дка або́ ба́ржа, прыстасава́ная для жылля́ або́ ле́тняга адпачы́нку

**housebound** [ˈhaʊsbaʊnd] *adj.* прывя́заны, прыкава́ны да до́му (*з-за хваробы або з-за ўзросту*)

**housebreaker** [ˈhaʊsbreɪkə] *n.* узло́мшчык

**housecoat** [ˈhaʊskəʊt] *n.* жано́чы хала́т

**household** [ˈhaʊshəʊld] *n.* **1.** сям'я́, сяме́йнікі, дама́шнія; **the head of the household** старэ́йшы ў сям'і **2.** ха́тняя гаспада́рка

**householder** [ˈhaʊshəʊldə] *n. fml* домаўладáльнік; гаспада́р до́ма; кватэранаймáльнік

**housekeeper** [ˈhaʊskiːpə] *n.* акано́мка, ахмістры́ня; ха́тняя гаспады́ня

**housekeeping** [ˈhaʊskiːpɪŋ] *n.* ха́тняя гаспада́рка; дамаво́дства; **housekeeping money** гро́шы на гаспада́рку; **do the housekeeping** ве́сці гаспада́рку

**housemaster** [ˈhaʊsmɑːstə] *n.* выхава́льнік, выхава́цель (*у школе*)

**housemistress** [ˈhaʊsmɪstrəs] *n.* выхава́льніца, выхава́целька

**House of Commons** [ˌhaʊsəvˈkɒmənz] *n.* **the House of Commons** пала́та абшчы́н (*у Вялікабрытаніі і Канадзе*)

**House of Lords** [ˌhaʊsəvˈlɔːdz] *n.* **the House of Lords** пала́та ло́рдаў (*у Вялікабрытаніі*)

**House of Representatives** [ˌhaʊsəvˌreprɪˈzentətɪvz] *n.* **the House of Representatives** пала́та прадстаўніко́ў (*у кангрэсе ЗША, парламенце Аўстраліі*)

**houseplant** [ˈhaʊsplɑːnt] *n.* ха́тняя кве́тка, вазо́н

**Houses of Parliament** [ˌhaʊzɪzəvˈpɑːləmənt] *n.* **the Houses of Parliament** парла́мент Вялікабрытаніі

**house-to-house** [ˌhaʊstəˈhaʊs] *adj.* пагало́ўны, суцэ́льны; **a house-to-house visitation** абхо́д усі́х дамо́ў; **a house-to-house survey** пагало́ўны пе́рапіс

**house-trained** [ˈhaʊstreɪnd] *adj. BrE* прыву́чаны не га́дзіць до́ма (*пра сабаку, ката*)

**house-warming** [ˈhaʊsˌwɔːmɪŋ] *n.* увахóдзіны, улáзіны, навасéлле, святкавáнне ўвахóдзін; **give/have a house-warming** спраўля́ць/святкавáць увахóдзіны

**housewife** [ˈhaʊswaɪf] *n.* (*pl.* **-wives**) хáтняя гаспады́ня

**housework** [ˈhaʊswɜːk] *n.* хáтняя рабóта; **do the housework** займáцца хáтняй прáцай

**housing** [ˈhaʊzɪŋ] *n.* **1.** жыллё, жыллёвыя ўмóвы; **the housing shortage** недахóп жылля́ **2.** жыллёвае будаўні́цтва

**housing estate** [ˈhaʊzɪŋɪˌsteɪt] *n. BrE* жылы́ мікрараён; **on a housing estate** у жылы́м мікрараёне

**hove** [həʊv] *past, p.p.* → **heave**

**hovel** [ˈhɒvl] *n.* хаці́на, халу́па; шалáш

**hover** [ˈhɒvə] *v.* **1.** лунáць (*пра птушак*), вісéць у павéтры, кружы́ць **2.** круці́цца, таптáцца, хадзі́ць вакóл (*чаго-н.*) **3.** хістáцца, вагáцца, не рашáцца, мару́дзіць; *A smile hovered over her lips.* Усмешка блукала на яе твары.

**hovercraft** [ˈhɒvəkrɑːft] *n.* трáнспартны срóдак на павéтранай паду́шцы

**how** [haʊ] *adv.* як, які́м чы́нам; *How did it happen?* Як гэта здарылася? ♦ **any old how** *infml* як папáла, нядбáйна; **how about…?** як накóнт...?; **how can/could you!** як ты мóжаш/ мог!; **how come?** *infml* дык чаму́ ж?; як гэ́та?; які́м чы́нам?; **how many/much?** кóлькі?; **how now (then)?** гэ́та што такóе?; што гэ́та знáчыць?; ну?! як?!; **how so?** як гэ́та так?; **how on earth do I know?** адку́ль я вéдаю?; **how do you do?** дóбры дзень!; **how old are you?** кóлькі вам гадóў?; **how's that?** як гэ́та?; **how are you?** як жывяцé/мáецеся?; **how are you getting on?/how goes it?/how are things?** як жывяцé, як спрáвы?

**however**[1] [haʊˈevə] *adv.* як бы ні, які́ б ні; *He wanted to take no risks, however small.* Ён не хацеў рызыкаваць, якая б ні малая была рызыка.

**however**[2] [haʊˈevə] *conj.* аднáк; усё ж такі́, тым не мéней

**howl**[1] [haʊl] *n.* **1.** выццё; **the howl of wolves** выццё ваўкóў; **the howl of the wind** завывáнне вéтру **2.** стогн, крык; ля́мант; **a howl of despair** крык адчáю

**howl**[2] [haʊl] *v.* **1.** выць **2.** стагнáць, выкры́кваць; **howl with laughter** качáцца ад смéху

**howl down** [ˌhaʊlˈdaʊn] *phr.v.* заглушáць кры́кам

**howler** [ˈhaʊlə] *n. infml* кéпская, дурнáя памы́лка; **stylistic howlers** стылісты́чныя хі́бы

**howling** [ˈhaʊlɪŋ] *adj.* **1.** вы́ючы; лямантýючы **2.** *infml* (*эмацыйна-ўзмацняльна*) каласáльны, жахлі́вы, страшэ́нны; **a howling success** страшэ́нны пóспех

**HP, h.p.** [ˌeɪtʃ ˈpiː] **1.** (*скар. ад* **horsepower**) *phys.* кóнская сі́ла **2.** *BrE* (*скар. ад* **hire purchase**) паку́пка абó прóдаж у растэрмінóўку/ крэды́т

**HQ** [ˌeɪtʃ ˈkjuː] (*скар. ад* **headquarters**) штаб

**hr** (*пісьмовае скар. ад* **hour**) гадзі́на

**HRH** [ˌeɪtʃɑːˈeɪtʃ] (*скар. ад* **Her/His Royal Highness**) Яé/Ягó Каралéўская Высóкасць

**HRT** [ˌeɪtʃɑːˈtiː] *n.* (*скар. ад* **hormone replacement therapy**) замяшчáльная гармонатэрапі́я

**hub** [hʌb] *n.* **1. (of)** цэнтр увáгі, інтарэ́су, дзéйнасці; «сэ́рца», аснóва; **the hub of the universe** цэнтр сусвéту; пуп зямлі́ **2.** калóдка (*кола*); ту́лка

**hubbub** [ˈhʌbʌb] *n.* шум, гам, гвалт, гул; **the hubbub of voices** гул галасóў

**hubcap** [ˈhʌbkæp] *n.* каўпáк кóла (*аўтамабіля*)

**huddle**[1] [ˈhʌdl] *n.* **1.** куча, звáлка **2.** натóўп; стáтак **3.** *AmE* нарáда ігракóў на пóлі (*футбол*) ♦ **get/go into a huddle with smb.** уступáць у тáйную змóву з кім-н.

**huddle**[2] [ˈhʌdl] *v.* **1. (up)** збірáцца, збівáцца ў ку́чу, тóўпіцца; *The children huddled together under the trees.* Дзеці стоўпіліся пад дрэвамі; *The sheep huddled up.* Авечкі збіліся ў кучу. **2.** ску́рчвацца; сціскáцца; *The child huddled under a blanket.* Дзіця скурчылася пад коўдрай.

**hue** [hjuː] *n.* **1.** *lit. or tech.* кóлер; адцéнне; тон; каляры́т **2.** *fml* адцéнне, разнаві́днасць пóглядаў абó вéраванняў; **politicians of various hues** палі́тыкі ўсі́х масцéй ♦ **a hue and cry** мóцны палі́ты́чны пратэ́ст; *A new tax has raised a hue and cry among the public.* Новы падатак выклікаў моцны пратэст у народа.

**huff**[1] [hʌf] *n.* прыпáдак раздражнéння, вы́бух гнéву ♦ **in a huff** *infml* у дрэ́нным настрóі, сярдзі́ты, раздражнёны; пакры́ўджаны

**huff**[2] [hʌf] *v.* гавары́ць незадавóленым, раздражнёным тóнам ♦ **huff and puff** *infml* 1) сапці́, ця́жка ды́хаць ад стóмы; *She huffed and puffed to keep up with the rest.* Яна цяжка дыхала, даганяючы астатніх. 2) раздражня́цца, гнéвацца; кры́ўдзіцца, злавáцца; *After huffing and puffing a little, she agreed with his decision.* Яна пакрыўдавала нядоўга і згадзілася з яго рашэннем.

**hug**[1] [hʌg] *n.* мóцныя абды́мкі; **give a hug** абня́ць

**hug**[2] [hʌg] *v.* **1.** мо́цна абдыма́ць/абдыма́цца; *She was hugging her doll tightly.* Яна моцна прытуліла ляльку да грудзей; *They hugged each other.* Яны абняліся. **2.** трыма́цца (*чаго-н.*); **hug the coast** трыма́цца бліжэ́й да бе́рага **3.** гла́дка абляга́ць (*фігуру, цела і да т.п.*); *She was wearing a figure-hugging dress.* На ёй была сукенка, якая гладка аблягала фігуру.

**huge** [hjuːdʒ] *adj.* вялі́зны, велiза́рны

**hugely** [ˈhjuːdʒli] *adv.* ве́льмі, выклю́чна; **hugely successful** які́ ма́е вялі́кі по́спех; **hugely pleased** стра́шна задаво́лены

**huh** [hʌ] *interj.* **1.** хм! гм! (*выражае здзіўленне, неадабрэнне і да т.п.*) *Huh! Is that all you've done?* Хм, гэта ўсё, што ты зрабіў? **2.** га? што?; *Let's go out, huh?* Давай выйдзем, га?

**hulk** [hʌlk] *n.* **1.** ко́рпус старо́га караблі́ **2.** цяльпу́к, «мядзве́дзь», вялі́кі няўклю́дны чалаве́к **3.** грама́дзіна; гмах

**hulking** [ˈhʌlkɪŋ] *adj.* няўклю́дны, нязгра́бны, непаваро́тлівы; масі́ўны; грама́дны

**hull**[1] [hʌl] *n.* ко́рпус караблі́ (*частка, якая знаходзіцца пад вадой*)

**hull**[2] [hʌl] *v.* лу́шчыць; абіра́ць, здыма́ць лупі́ну, абдзіра́ць (*пра зерне, гарох і да т.п.*); **hull beans** лу́шчыць бабы́

**hullabaloo** [ˌhʌləbəˈluː] *n.* крык, гам, шум, гвалт; *What a hullabaloo!* Які гвалт!

**hullo** [həˈləʊ] *interj.* = **hello**

**hum**[1] [hʌm] *n.* **(of)** гудзе́нне; гул; **the hum of traffic** гул машы́н

**hum**[2] [hʌm] *v.* **1.** напява́ць (*без слоў*), мурлы́каць, спява́ць з закры́тым ро́там **2.** гусці́, гудзе́ць **3.** быць дзе́йным, развіва́ць бу́рную дзе́йнасць ♦ **hum and haw** *BrE, infml* мя́мліць, запіна́цца; хіста́цца, вага́цца, не раша́цца

**human**[1] [ˈhjuːmən] *n.* (*таксама* **human being**) чалаве́к, чалаве́чая істо́та

**human**[2] [ˈhjuːmən] *adj.* чалаве́чы; **the human race** род людскі́; **a human voice** чалаве́чы го́лас; **human nature** чалаве́чая прыро́да/нату́ра; **a human ceiling** мяжа́ чалаве́чых магчы́масцей; **a human factor** чалаве́чы фа́ктар **2.** уласці́вы чалаве́ку; *It's human to err.* Чалавеку ўласціва памыляцца.

**humane** [hjuːˈmeɪn] *adj.* чалаве́чны, гума́нны

**human interest** [ˌhjuːmənˈɪntrəst] *n.* газе́тны арты́кул, які́ выкліка́е інтарэ́с шыро́кай пу́блікі

**humanism** [ˈhjuːmənɪzəm] *n.* гумані́зм; гума́ннасць, чалаве́чнасць

**humanist** [ˈhjuːmənɪst] *n.* гумані́ст

**humanitarian**[1] [hjuːˌmænɪˈteəriən] *n.* **1.** гумані́ст **2.** філантро́п

**humanitarian**[2] [hjuːˌmænɪˈteəriən] *adj.* **1.** гума́нны; гуманісты́чны **2.** гуманіта́рны

**humanity** [hjuːˈmænəti] *n.* **1.** чалаве́цтва; род людскі́ **2.** гума́ннасць, чалаве́чнасць, чалавекалю́бства; гумані́зм; **an act of humanity** гума́нны ўчы́нак **3.** *pl.* **(the) humanities** гуманіта́рныя наву́кі

**humanize,** *BrE* **-ise** [ˈhjuːmənaɪz] *v.* **1.** ачалаве́чваць **2.** змякча́ць; паляпша́ць **3.** рабі́ць высакаро́дным, гума́нным

**humankind** [ˌhjuːmənˈkaɪnd] *n.* чалаве́цтва

**humanly** [ˈhjuːmənli] *adv.* **1.** у ме́жах чалаве́чых сіл; *It is humanly impossible.* Гэта вышэй за чалавечыя сілы. **2.** па-чалаве́чы; **be humanly fallible** мець уласці́выя чалаве́ку сла́басці

**human resources** [ˌhjuːmənrɪˈsɔːsɪz] *n. pl.* **1.** чалаве́чыя рэсу́рсы **2.** аддзе́л ка́драў

**human right** [ˌhjuːmənˈraɪt] *n.* **:** *pl.* **human rights** правы́ чалаве́ка

**humble**[1] [ˈhʌmbl] *adj.* **1.** сці́плы; пако́рны; пачці́вы; **a humble follower** сці́плы паслядо́ўнік; **in my humble opinion** на мой сці́плы по́гляд; **a humble request** пако́рная про́сьба **2.** ні́зкі па стано́вішчы або́ сацыя́льным ста́тусе; **of humble birth/origins** ні́зкага/нязна́тнага пахо́джання; **a humble station in life** сці́плае ме́сца ў грама́дстве **3.** невялі́кі; про́сты, бе́дны, сці́плы; **a humble house** про́сты/бе́дны дом; **a humble income** сці́плы/невялі́кі дахо́д

**humble**[2] [ˈhʌmbl] *v.* уціхамі́рваць, утаймо́ўваць; зневажа́ць; прыніжа́ць; **humble oneself** прыніжа́цца; запабяга́ць (*перад кім-н.*), падла́шчвацца (*да каго-н.*), лісл́іва дагаджа́ць

**humeri** [ˈhjuːməraɪ] *pl.* → **humerus**

**humerus** [ˈhjuːmərəs] *n. anat.* (*pl.* **humeri**) плечава́я косць

**humid** [ˈhjuːmɪd] *adj.* вільго́тны; сыры́, во́лкі, зо́лкі

**humidity** [hjuːˈmɪdəti] *n.* вільго́тнасць; ві́льгаць, сы́расць, золь

**humiliate** [hjuːˈmɪlieɪt] *v.* зневажа́ць; прыніжа́ць

**humiliation** [hjuːˌmɪliˈeɪʃn] *n.* знява́га, прыніжэ́нне; пры́ніжанасць

**humility** [hjuːˈmɪləti] *n.* пако́рлівасць, пако́рнасць; сці́пласць, непрыкме́тнасць; сарамлі́васць

**humor** [ˈhjuːmə] *AmE* = **humour**

**humorless** [ˈhjuːmələs] *AmE* = **humourless**

**humorist** [ˈhjuːmərɪst] *n.* гумары́ст; весялу́н, жартаўні́к, дасці́пнік

**humorous** [ˈhjuːmərəs] *adj.* гумарысты́чны; заба́ўны, сме́шны, камі́чны; **a humorous writer**

пісьме́ннік-гумары́ст; **a humorous accident** забáўны/камíчны вы́падак

**humour**[1] [ˈhjuːmə] *n.* **1.** гу́мар; насме́шлівасць, весяло́сць но́раву; жартаўлі́васць; **a sense of humour** пачуццё гу́мару; **a man of humour** чалаве́к з пачуццём гу́мару **2.** *fml* настро́й, гумо́р; **in good/bad/ill humour** у до́брым/дрэ́нным настро́і; **out of humour** не ў гумо́ры

**humour**[2] [ˈhjuːmə] *v.* улаго́джваць, патура́ць; **humour a child** пе́сціць, ба́лаваць дзіця́

**humourless** [ˈhjuːmələs] *adj.* пазба́ўлены пачуцця́ гу́мару; сухі́, ну́дны

**hump**[1] [hʌmp] *n.* **1.** узго́рак, паго́рак, грудо́к **2.** горб **3.** бугóр ♦ **get/take the hump** *BrE, infml* зажуры́цца, затужы́ць, раскі́снуць; паве́сіць нос; **be over the hump** пераадо́лець асно́ўныя ця́жкасці (*у якой-н. справе, рабоце, хваробе і да т.п.*)

**hump**[2] [hʌmp] *v. BrE* узвалі́ць на спі́ну і не́сці; *I had to hump the bag of coal upstairs myself.* Я быў вымушаны сам цягнуць наверх мяшок вугалю.

**humpback salmon** [ˌhʌmpbækˈsæmən] *n. zool.* гарбу́ша

**humpback whale** [ˌhʌmpbækˈweɪl] *n. zool.* гарба́ты кіт, гарба́ч

**humped** [hʌmpt] *adj.* гарба́ты, згóрблены

**humph** [hʌmf] *interj.* хм! гм! (*перадае сумненне, няўпэўненасць*)

**humus** [ˈhjuːməs] *n.* гу́мус, перагно́й

**hunch**[1] [hʌntʃ] *n.* прадчува́нне; падазрэ́нне; інтуі́цыя; **have a hunch that…** прадчува́ць, інтуіты́ўна здага́двацца, што…

**hunch**[2] [hʌntʃ] *v.* го́рбіць; го́рбіцца; суту́ліць; суту́ліцца; **hunch one's back/shoulders/oneself** го́рбіцца, суту́ліцца

**hunchback** [ˈhʌntʃbæk] *n.* гарбу́н, гарба́ты; гарба́тая

**hundred**[1] [ˈhʌndrəd] *n.* **1.** сто, со́тня **2. a hundred/hundreds of** *infml* вялі́кая ко́лькасць; **for hundreds of years** шмат гадо́ў **3. the hundreds** *math.* со́тні, разра́д со́тняў (*ад 100 да 999*) **4.** нуль-нуль, ро́ўна (*пры абазначэнні гадзіны або года*); **at ten hundred hours** у дзе́сяць нуль-нуль, ро́ўна ў дзе́сяць; **in the year twenty hundred** у двухты́сячным го́дзе

**hundred**[2] [ˈhʌndrəd] *num.* сто (*колькасць або нумар*)

**hundredth**[1] [ˈhʌndrədθ] *n.* **1.** со́тая ча́стка; (адна́) со́тая **2.** апо́шні з се́рыі, яка́я склада́ецца са ста прадме́таў **3.** *math.* другі́ знак пасля́ ко́скі (*у дзесятковых дробах*)

**hundredth**[2] [ˈhʌndrədθ] *num.* со́ты (*па ліку*); **the hundredth book of this writer** со́тая кні́жка гэ́тага пісьме́нніка

**hundredweight** [ˈhʌndrədweɪt] *n.* цэ́нтнер: англі́йскі (*= 50,8 кг*); амерыка́нскі (*= 45,4 кг*)

**hung** [hʌŋ] *past, p.p.* → **hang**[2]

**Hungarian**[1] [hʌnˈgeəriən] *n.* **1.** венгр; венге́рка; вуго́рац; вуго́рка; мадзья́р; мадзья́рка **2.** венге́рская/вуго́рская мо́ва

**Hungarian**[2] [hʌnˈgeəriən] *adj.* венге́рскі, вуго́рскі, мадзья́рскі

**hunger**[1] [ˈhʌŋgə] *n.* **1.** го́лад; працяглае недаяда́нне **2.** *fml* **(for)** патрэ́бнасць (*у чым-н.*), імкне́нне (*да чаго-н.*), пра́га (*чаго-н.*); **a hunger for knowledge** пра́га да ве́даў

**hunger**[2] [ˈhʌŋgə] *v.* **: hunger for/after smth./smb.** *lit.* пра́гнуць, мо́цна жада́ць чаго́-н./каго́-н.; *The child hungers for affection.* Дзіцяці патрэбна ласка.

**hunger strike** [ˈhʌŋgəˌstraɪk] *n.* галадо́ўка; **go on hunger strike** аб'яві́ць галадо́ўку

**hungry**[1] [ˈhʌŋgri] *n.* **:** *pl.* **the hungry** гало́дныя

**hungry**[2] [ˈhʌŋgri] *adj.* **1.** гало́дны **2. (for)** які́ пра́гне/мо́цна жада́е (*чаго-н.*); **hungry for knowledge** які́ пра́гне ве́даў; **hungry for money** пра́гны да гро́шай

**hung up** [ˌhʌŋˈʌp] *adj. infml* **1. (on/about)** апанта́ны, утрапёны **2.** які́ заблы́таўся, не мо́жа знайсці́ вы́йсця (*са складанага становішча*)

**hunk** [hʌŋk] *n.* вялі́кі кава́лак (*асабліва ежы*); лу́ста, скі́бка, скрыль

**hunt**[1] [hʌnt] *n.* **1. (for)** по́шукі; **a hunt for a job** по́шукі пра́цы **2.** palява́нне, ло́ўля; **an elephant hunt** паліва́нне на сланó ў **3.** палява́нне на ліс (*від спорту ў Вялікабрытаніі*) **4.** кама́нда спартсме́наў, які́я займа́юцца палява́ннем на ліс

**hunt**[2] [hʌnt] *v.* **1.** паліва́ць; лаві́ць **2.** шука́ць (*каго-н., што-н.*), го́йсаць/бе́гаць (*у пошуках чаго-н.*), ганя́цца (*за чым-н.*); **hunt the truth** шука́ць пра́ўду; **hunt high and low** усю́ды шука́ць (*што-н.*); **hunt for a book** шука́ць, стара́цца купі́ць кні́гу; **hunt for an old friend** шука́ць старо́га ся́бра

**hunt down** [ˌhʌntˈdaʊn] *phr.v.* шука́ць (*каго-н./што-н.*), высо́чваць, пільнава́ць (*каго-н.*)

**hunt out** [ˌhʌntˈaʊt] *phr.v.* знахо́дзіць, адшу́кваць (*што-н.*)

**hunter** [ˈhʌntə] *n.* **1.** паляўні́чы **2.** шука́льнік; **a hunter after glory** шука́льнік сла́вы

**hunting** [ˈhʌntɪŋ] *n.* **1.** палява́нне; **fox hunting** палява́нне на ліс **2.** по́шукі; **house hunting** по́шукі жылля́

**hunting ground** [ˈhʌntɪŋˌgraʊnd] *n.* **1.** рай, раздо́лле; *Crowded transport is a happy hunting ground for pickpockets.* Перапоўнены транспарт – рай для кішэннікаў. **2.** тэрыто́рыя для палява́ння

**huntress** [ˈhʌntrəs] *n.* жанчы́на-паляўні́чы

**huntsman** [ˈhʌntsmən] *n.* (*pl.* **-men**) паляўні́чы

**hurdle**[1] [ˈhɜːdl] *n.* **1.** *sport* бар'е́р, перашко́да **2.** *pl.* **hurdles** *sport* бар'е́рны бег, бег з перашко́дамі; ска́чкі з перашко́дамі **3.** перашко́да, яку́ю трэ́ба пераадо́лець; *The most difficult hurdle was getting her mother's agreement.* Самай цяжкай перашкодай было атрымаць згоду маці.

**hurdle**[2] [ˈhɜːdl] *v.* **1. (over)** браць, пераадо́льваць перашко́ды **2.** удзе́льнічаць у бар'е́рным бе́гу, браць перашко́ды; удзе́льнічаць у ска́чках з перашко́дамі

**hurdler** [ˈhɜːdlə] *n. sport* **1.** бар'еры́ст **2.** конь, які́ ўдзе́льнічае ў ска́чках з перашко́дамі

**hurl** [hɜːl] *v.* **1.** кіда́ць, кі́даць, шпурля́ць; **hurl stones at smb./smth.** кіда́ць камяні́/кіда́цца камяня́мі ў каго́-н./што-н. **2.** асыпа́ць (*праклёнамі, пагрозамі і да т.п.*); **hurl reproaches** папіка́ць, упіка́ць, папрака́ць; **hurl abuse** ла́яцца

**hurly-burly** [ˈhɜːliˌbɜːli] *n.* сумятня́, мітусня́, бегані́на; **the hurly-burly of city life** сумятня́/мітусня́ гарадско́га жыцця́

**hurrah, hurray** [həˈrɑː, həˈreɪ] *interj.* = **hooray**

**hurricane** [ˈhʌrɪkən] *n.* урага́н, (трапі́чны) цыкло́н, тайфу́н

**hurricane lamp** [ˈhʌrɪkənˌlæmp] *n.* ліхта́р «мала́нка»

**hurried** [ˈhʌrid] *adj.* паспе́шлівы; ху́ткі, шпа́ркі; **hurried steps** шпа́ркія кро́кі; **a hurried departure** паспе́шлівы ад'е́зд

**hurriedly** [ˈhʌridli] *adv.* паспе́шліва; наспе́х; шпа́рка

**hurry**[1] [ˈhʌri] *n.* спе́шка, паспе́х; шпа́ркасць; паспе́шлівасць ♦ **in a hurry** у спе́шцы, спе́хам; **in no hurry to do smth./not in a hurry to do smth.** 1) мець дастатко́ва ча́су, каб рабі́ць што-н. не спяша́ючыся 2) рабі́ць што-н. ве́льмі неахво́тна; *She is in a hurry to try her new dress on.* Ёй карціць памераць новую сукенку; *I will not come here again in a hurry.* Я не хутка зноў сюды вярнуся.

**hurry**[2] [ˈhʌri] *v.* **1.** спяша́цца; **hurry home** спяша́цца дадо́му; *I shall hurry back.* Я хутка вярнуся. **2.** прыспяша́ць, падганя́ць; *He was hurried into making a wrong choice.* Яго так падганялі, што ён зрабіў няправільны выбар.

**hurry on** [ˌhʌriˈɒn] *phr.v.* праця́гваць гавары́ць, не даючы́ ніко́му магчы́масці вы́казацца

**hurry up** [ˌhʌriˈʌp] *phr.v.* спяша́цца, ру́хацца хутчэ́й; **hurry smb./smth. up** прыспе́шваць каго́-н./што-н.

**hurt**[1] [hɜːt] *n.* крыў́да; абра́за; *It was a hurt for him to hear that.* Яму было крыўдна чуць гэта.

**hurt**[2] [hɜːt] *adj.* **1.** пара́нены, траўмі́раваны, пацярпе́лы; *No one was hurt in the accident.* У аварыі ніхто не пацярпеў. **2.** пакрыўджаны, знява́жаны; **hurt pride** абра́жанае/уко́латае самалю́бства; **a hurt look** пакры́ўджаны по́зірк

**hurt**[3] [hɜːt] *v.* **(hurt) 1.** вы́цяць; прычыня́ць боль **2.** *infml* бале́ць (*пра руку, нагу і да т.п.*) **3.** крыў́дзіць; зневажа́ць **4. : be hurting** *infml* адчува́ць сябе́ няшча́сным **5.** рабі́ць шко́ду, прычыня́ць стра́ту; псава́ць; **hurt smb.'s reputation** падарва́ць чыю́-н. рэпута́цыю; **be hurting for smth.** *AmE* быць у ця́жкім стано́вішчы, асаблі́ва з-за недахо́пу гро́шай ♦ **it won't/wouldn't hurt smb. to do smth.** не пашко́дзіць/бу́дзе餘 кары́сным каму́-н. зрабі́ць што-н.; *It won't hurt you to read this article.* Вам карысна будзе прачытаць гэты артыкул.

**hurtful** [ˈhɜːtfəl] *adj.* **(to)** абра́злівы, знява́жлівы; крыў́дны; які́ ра́ніць (*пра словы, заўвагі і да т.п.*); **hurtful words** крыў́дныя сло́вы

**husband** [ˈhʌzbənd] *n.* муж

**husbandry** [ˈhʌzbəndri] *n.* земляро́бства, се́льская гаспада́рка; **animal husbandry** жывёлагадо́ўля

**hush**[1] [hʌʃ] *n.* цішыня́, маўча́нне; **the hush before the storm** заці́шша пе́рад бу́рай; *Can we have **a bit of hush**?* Калі ласка, памаўчыце! Захоўвайце цішыню!

**hush**[2] [hʌʃ] *v.* супако́йваць; супако́йвацца; суніма́ць; суніма́цца; **hush a child** уціхамі́рыць дзіця́

**hush up** [ˌhʌʃˈʌp] *phr.v.* заміна́ць; замо́ўчваць, уто́йваць (*скандал, інфармацыю і да т.п.*)

**hush**[3] [hʌʃ] *interj.* ці́ха!; замаўчы́!; сці́хні!

**hushed** [hʌʃt] *adj.* **1.** ці́хі (*пра месца*) **2.** прыглу́шаны (*пра голас*)

**husk**[1] [hʌsk] *n.* шалупі́нне; шкарлу́піна; ску́рка; **rice in the husk** неачы́шчаны рыс

**husk**[2] [hʌsk] *v.* абіра́ць; скрэ́бці, аскраба́ць (*моркву, буракі і да т.п.*); лу́шчыць

**husky** [ˈhʌski] *adj.* сіпа́ты, хры́плы (*пра чалавека або яго голас*)

**hustle**[1] [ˈhʌsl] *n.* таўкатня́; штурхані́на, мітусня́

**hustle**[2] [ˈhʌsl] *v.* **1.** таўчы́, піха́ць, пхаць, цясні́ць **2.** прымуша́ць, падганя́ць, прыспе́шваць **3.** *infml* гандлява́ць з-пад крыса́ (*наркотыкамі, спіртным і да т.п.*) **4.** *AmE, infml* дзе́йнічаць ху́тка, энергі́чна або́ агрэсі́ўна, браць нахра́пам; *Be sure to hustle!* Глядзі ж, будзь рашучым! **5.** *AmE, slang* займа́цца прастыту́цыяй

**hustler** [ˈhʌslə] *n.* **1.** *infml* жу́лік, цёмная асо́ба **2.** *AmE, slang* прастыту́тка, шлю́ха

**hut** [hʌt] *n.* хаці́на, халу́па, ха́тка

**hutch** [hʌtʃ] *n.* кле́тка (*для звяркоў*)

**hyacinth** [ˈhaɪəsɪnθ] *n. bot.* гіяцы́нт

**hyaena** [haɪˈiːnə] *n.* = **hyena**

**hybrid** [ˈhaɪbrɪd] *n.* **1.** гібры́д, по́месь (*пра расліны, жывёл і да т.п.*) **2.** не́шта, скла́дзенае з разнаро́дных элеме́нтаў

**hydrant** [ˈhaɪdrənt] *n.* водаразбо́рны кран, гідра́нт; **a fire hydrant** пажа́рны гідра́нт

**hydraulic** [haɪˈdrɔːlɪk] *adj.* **1.** гідраўлі́чны, гідратэхні́чны; **hydraulic brakes** гідраўлі́чныя тармазы́; **a hydraulic drive** гідрапры́вад **2.** які́ ма́е адно́сіны да гідра́ўлікі; **hydraulic engineering** гідра́ўліка

**hydrocarbon** [ˌhaɪdrəˈkɑːbən] *n. chem.* вуглевадаро́д

**hydroelectric** [ˌhaɪdrəʊɪˈlektrɪk] *adj.* гідраэлектры́чны; **a hydroelectric plant** гідраэлектраста́нцыя

**hydrogen** [ˈhaɪdrədʒən] *n. chem.* вадаро́д

**hydrogen bomb** [ˈhaɪdrədʒənˌbɒm] *n.* вадаро́дная бо́мба

**hydrophobia** [ˌhaɪdrəˈfəʊbiə] *n. med.* вадабо́язь

**hydroplane** [ˈhaɪdrəpleɪn] *n.* **1.** глі́сер з паве́траным вінто́м **2.** *AmE* гідрасамалёт, гідрапла́н

**hydrotherapy** [ˌhaɪdrəʊˈθerəpi] *n. med.* гідратэрапі́я

**hyena** [haɪˈiːnə] *n. zool.* гіе́на

**hygiene** [ˈhaɪdʒiːn] *n.* гігіе́на

**hygienic** [haɪˈdʒiːnɪk] *adj.* гігіені́чны; **hygienic conditions** гігіені́чныя ўмо́вы

**hymn** [hɪm] *n.* **1.** царко́ўны гімн, псало́м **2.** хвале́бная пе́сня, услаўле́нне, гімн

**hype**[1] [haɪp] *n. infml* (*неадабральна*) бессаро́мная рэкла́ма, пуска́нне тума́ну ў во́чы; ашука́нства; *She became a victim of the hype – the medicine didn't do her any good.* Яна стала ахвярай рэкламы – лекі не дапамаглі ёй.

**hype**[2] [haɪp] *v. infml* **(up)** (*неадабральна*) крыклі́ва рэкламава́ць; нахва́льваць, узно́сіць; *This movie has been much hyped, but it isn't that good.* Гэты фільм многа рэкламуюць, але ён таго не варты.

**hyper** [ˈhaɪpə] *adj. infml* нерво́ва ўзбу́джаны, усхваля́ваны, заве́дзены

**hyperactive** [ˌhaɪpərˈæktɪv] *adj.* звышакты́ўны

**hyperbole** [haɪˈpɜːbəli] *n.* **1.** *ling.* гіпе́рбала **2.** пераб́ольшанне

**hypermarket** [ˈhaɪpəˌmɑːkɪt] *n.* гіперма́ркет, буйны́ ўніверса́м, гандлёвы ко́мплекс, гандлёвы цэнтр

**hypersonic** [ˌhaɪpəˈsɒnɪk] *adj. phys.* гіпергукавы́; звышгукавы́; **hypersonic velocity** звышгукава́я ху́ткасць

**hypertension** [ˌhaɪpəˈtenʃn] *n. med.* гіпертані́я; павы́шаны крывяны́ ціск, гіпертэ́нзія

**hypertrophy** [haɪˈpɜːtrəfi] *n. med.* гіпертрафі́я

**hyphen** [ˈhaɪfn] *n.* **1.** дэфі́с, злучо́к **2.** знак перано́су з аднаго́ радка́ на другі́

**hyphenate** [ˈhaɪfəneɪt] *v.* піса́ць праз дэфі́с/злучо́к

**hypnosis** [hɪpˈnəʊsɪs] *n.* (*pl.* **-es**) гіпно́з

**hypnotic** [hɪpˈnɒtɪk] *adj.* **1.** гіпнаты́чны; **a hypnotic trance** гіпнаты́чны транс; **a hypnotic state** гіпнаты́чны стан; **hypnotic sounds** гіпнаты́чныя гу́кі; *The music had an almost hypnotic effect.* Музыка мела амаль гіпнатычны эфект. **2.** снатво́рны, наркаты́чны (*пра лекі*)

**hypnotist** [ˈhɪpnətɪst] *n.* гіпнатызёр

**hypnotize,** *BrE* **-ise** [ˈhɪpnətaɪz] *v.* гіпнатызава́ць

**hypochondria** [ˌhaɪpəˈkɒndriə] *n.* іпахо́ндрыя, прыгне́чаны стан

**hypocrisy** [hɪˈpɒkrəsi] *n.* крываду́шнасць, прытво́рства, гіпакры́зія

**hypocrite** [ˈhɪpəkrɪt] *n.* крываду́шнік; крываду́шніца; прытво́ршчык; прытво́ршчыца; ханжа́, свято́ша

**hypotheses** [haɪˈpɒθəsiːz] *pl.* → **hypothesis**

**hypothesis** [haɪˈpɒθəsɪs] *n.* (*pl.* **hypotheses**) гіпо́тэза, дапушчэ́нне

**hypothetical** [ˌhaɪpəˈθetɪkl] *adj.* гіпатэты́чны, верагодны

**hysterectomy** [ˌhɪstəˈrektəmi] *n. med.* гістэрэктамі́я, выдале́нне ма́ткі

**hysteria** [hɪˈstɪəriə] *n.* істэры́я; **mob hysteria** ма́савая істэры́я

**hysterical** [hɪˈsterɪkl] *adj.* **1.** істэры́чны **2.** *infml* ве́льмі сме́шны; *Isn't it a hysterical situation?* Сітуацыя вельмі смешная, ці не так?

**hysterics** [hɪˈsterɪks] *n.* істэ́рыка; прыпа́дак істэры́і ♦ **have hysterics** быць у істэ́рыцы

**Hz** (*пісьмовае скар. ад* **hertz**) *phys.* герц, гц

## Ii

**I, i** [aɪ] *n. 9-я літара англійскага алфавіта*
**I** [aɪ] *pron.* я; **you and I** мы з табо́й/ва́мі; *He and I were at school together.* Я з ім разам вучыўся ў школе./Мы з ім разам вучыліся ў школе.
**Iberian** [aɪˈbɪəriən] *adj.* іберы́йскі
**ibid.** [ɪˈbɪd] (*скар. ад лацін.* **ibidem**) там жа, у тым жа ме́сцы
**ibis** [ˈaɪbɪs] *n. zool.* і́біс (*птушка*)
**ICBM** [ˌaɪsiːbiːˈem] (*скар. ад* **intercontinental ballistic missile**) міжкантынента́льная балісты́чная раке́та
**ice¹** [aɪs] *n.* лёд ♦ **break the ice** разбі́ць лёд, растапі́ць лёд (*паміж кім-н.*); **skate on thin ice** рызыкава́ць
**ice²** [aɪs] *v.* **1.** замаро́жваць **2.** глазурава́ць
**ice over** [ˌaɪsˈəʊvə] *phr.v.* замярза́ць; *The lake iced over.* Возера замерзла.
**Ice Age** [ˈaɪsˌeɪdʒ] *n.* **the Ice Age** леднікo҅вы перы́яд
**iceberg** [ˈaɪsbɜːg] *n.* а́йсберг ♦ **the tip of the iceberg** вяршо́к а́йсберга
**icebox** [ˈaɪsbɒks] *n. dated* халадзі́льнік
**icebreaker** [ˈaɪsˌbreɪkə] *n.* ледако́л
**ice cap** [ˈaɪsˌkæp] *n.* ледніко́вае по́крыва
**ice cream** [ˌaɪsˈkriːm] *n.* маро́жанае
**ice dancing** [ˈaɪsˌdɑːnsɪŋ] *n.* **1.** бале́т на лёдзе **2.** та́нцы на лёдзе
**ice floe** [ˈaɪsˌfləʊ] *n.* плыву́чая льдзі́на, кры́га
**ice hockey** [ˈaɪsˌhɒki] *n.* хаке́й (на лёдзе)
**ice house** [ˈaɪsˌhaʊs] *n.* лядо́ўня
**Icelander** [ˈaɪsləndə] *n.* ісла́ндзец; ісла́ндка
**Icelandic¹** [aɪsˈlændɪk] *n.* ісла́ндская мо́ва
**Icelandic²** [aɪsˈlændɪk] *adj.* ісла́ндскі
**ice lolly** [ˈaɪsˌlɒli] *n.* маро́жанае на па́лачцы
**ice rink** [ˈaɪsˌrɪŋk] *n.* като́к
**ice show** [ˈaɪsˌʃəʊ] *n.* бале́т на лёдзе
**ice skate¹** [ˈaɪsskeɪt] *n. звыч. pl.* **ice skates** канькі́
**ice-skate²** [ˈaɪsskeɪt] *v.* ката́цца на канька́х
**ice skating** [ˈaɪsˌskeɪtɪŋ] *n.* ката́нне на канька́х
**icicle** [ˈaɪsɪkl] *n.* лядзя́ш
**icily** [ˈaɪsɪli] *adv.* хо́ладна
**icing** [ˈaɪsɪŋ] *n.* цукро́вая глазу́ра
**icon** [ˈaɪkɒn] *n.* **1.** іко́на, абра́з **2.** піктагра́ма
**iconoclast** [aɪˈkɒnəklæst] *n. fml* іканабо́рац
**iconoclastic** [aɪˌkɒnəˈklæstɪk] *adj.* іканабо́рскі
**iconography** [ˌaɪkəˈnɒgrəfi] *n.* іканагра́фія
**icy** [ˈaɪsi] *adj.* ледзяны́ (*таксама перан.*); **icy roads** галалёдзіца на даро́гах; *Her tone was icy.* Яна гаварыла ледзяным тонам.
**ID** [ˌaɪˈdiː] *n.* (*скар. ад* **identity**, **identification**) пасве́дчанне асо́бы
**I'd** [aɪd] *скар. ад* **: 1.** I had **2.** I would
**idea** [aɪˈdɪə] *n.* **1.** ідэ́я, ду́мка; *Where did you get that idea?* Адкуль вы гэта ўзялі? **2.** уяўле́нне; *I have no idea.* Не маю (аніякага) уяўлення.
**ideal¹** [aɪˈdiːəl] *n.* ідэа́л
**ideal²** [aɪˈdiːəl] *adj.* ідэа́льны
**idealism** [aɪˈdiːəlɪzəm] *n.* ідэалі́зм
**idealist** [aɪˈdiːəlɪst] *n.* ідэалі́ст; ідэалі́стка
**idealistic** [aɪˌdiəˈlɪstɪk] *adj.* ідэалісты́чны
**idealization,** *BrE* **-isation** [aɪˌdiːəlaɪˈzeɪʃn] *n.* ідэаліза́цыя
**idealize,** *BrE* **-ise** [aɪˈdiːəlaɪz] *v.* ідэалізава́ць
**ideally** [aɪˈdiːəli] *adv.* ідэа́льна
**identical** [aɪˈdentɪkl] *adj.* **1.** той са́мы, то́есны **2. (to/with)** адно́лькавы, ідэнты́чны; **identical twins** аднаяйцавыя блізня́ты; **a row of identical houses** шэ́раг адно́лькавых дамо́ў
**identifiable** [aɪˌdentɪˈfaɪəbl] *adj.* які́ мо́жна ідэнтыфікава́ць/апазна́ць
**identification** [aɪˌdentɪfɪˈkeɪʃn] *n.* **1.** апазна́нне, ідэнтыфіка́цыя (*злачынцы, трупа*); **identification parade** працэду́ра апазна́ння падазро́нага (*сведкам ці пацярпелым*) **2.** пасве́дчанне (*асобы*); *His only means of identification was his passport.* Адзіным пасведчаннем яго асобы быў пашпарт. **3.** атаяса́мліванне
**identify** [aɪˈdentɪfaɪ] *v.* **1.** апазнава́ць, распазнава́ць **2.** атаяса́мліваць; салідарызава́цца (*з чым-н.*); **identify with smb.** спачува́ць каму́-н.
**identity** [aɪˈdentəti] *n.* **1.** асо́ба **2.** ідэнты́чнасць, то́еснасць
**identity card** [aɪˈdentətiˌkɑːd] *n.* пасве́дчанне асо́бы
**ideogram** [ˈɪdiəgræm] *n.* ідэагра́ма
**ideological** [ˌaɪdiəˈlɒdʒɪkl] *adj.* ідэалагі́чны
**ideologue** [ˈaɪdiəlɒg] *n.* ідэ́олаг
**ideology** [ˌaɪdiˈɒlədʒi] *n.* ідэало́гія
**idiocy** [ˈɪdiəsi] *n.* ідыяты́зм; глу́пства
**idiolect** [ˈɪdiəlekt] *n. ling.* ідыяле́кт
**idiom** [ˈɪdiəm] *n. ling.* **1.** ідыёма **2.** гаво́рка
**idiomatic** [ˌɪdiəˈmætɪk] *adj. ling.* ідыematы́чны; **an idiomatic expression** ідыяматы́чны вы́раз
**idiosyncrasy** [ˌɪdiəˈsɪŋkrəsi] *n.* **1.** своеасаблі́васць (*характару, паводзін*) **2.** дзіва́цтва, капры́з
**idiosyncratic** [ˌidiəsɪŋˈkrætɪk] *adj.* **1.** своеасаблі́вы, уніка́льны **2.** дзіва́цкі
**idiot** [ˈɪdiət] *n.* ідыёт; ду́рань
**idiotic** [ˌɪdiˈɒtɪk] *adj.* ідыёцкі; дурны́
**idle¹** [ˈaɪdl] *adj.* **1.** ляні́вы; бяздзе́йны **2.** які́ бяздзе́йнічае, не працу́е; незаня́ты **3.** ма́рны, дарэ́мны; **an idle attempt** дарэ́мная спро́ба; **idle curiosity** пуста́я ціка́васць; **idle rumours** беспадста́ўныя чу́ткі

**idle**[2] [ˈaɪdl] *v.* **1.** гультаява́ць; **idle one's time away** дарэ́мна/ма́рна губля́ць час **2.** праца-ва́ць на халасты́х абаро́тах (*пра матор*)
**idler** [ˈaɪdlə] *n.* гульта́й
**idol** [ˈaɪdl] *n.* і́дал (*таксама перан.*); куми́р
**idolatrous** [aɪˈdɒlətrəs] *adj.* ідалапакло́нніцкі
**idolatry** [aɪˈdɒlətri] *n.* ідалапакло́нства
**idolize,** *BrE* **-ise** [ˈaɪdəlaɪz] *v.* **1.** абагаўля́ць **2.** ве́льмі любі́ць
**idyll** [ˈɪdɪl] *n. fml* ідылія
**idyllic** [ɪˈdɪlɪk] *adj.* ідылі́чны
**i.e.** [ˌaɪˈiː] (*скар. ад лацін.* **id est**) гэ́та зна́чыць, менаві́та
**if**[1] [ɪf] *n. infml* **:** ***I want no ifs and buts.*** (Не хачу́ чуць) ніякіх адгаво́рак. ♦ **there are no ifs about it** ніякіх «калі́»
**if**[2] [ɪf] *conj.* **1.** калі́; *I'll help him if I can.* Я пама-гу яму, калі здолею; **if I were you** на ва́шым ме́сцы; *If I were you I'd stay.* (Калі б я быў) на вашым месцы, я б застаўся. **2.** ці; *I'll see if he is here.* Я гляну, ці ён тут.
**igloo** [ˈɪgluː] *n.* і́глу (*ледзяны дом эскімосаў*)
**ignite** [ɪgˈnaɪt] *v. fml* запа́льваць; запа́львацца
**ignition** [ɪgˈnɪʃn] *n.* запа́льванне
**ignoramus** [ˌɪgnəˈreɪməs] *n. hum.* не́вук, праφа́н
**ignorance** [ˈɪgnərəns] *n.* **1.** не́вуцтва, неадукава́-насць **2.** недасве́дчанасць; **keep smb. in igno-rance** трыма́ць каго́-н. у няве́данні ♦ **ignorance is bliss** шча́сце ў няве́данні
**ignorant** [ˈɪgnərənt] *adj.* **1.** не́вуцкі, неадукава́-ны **2. (of/about)** недасве́дчаны **3.** *infml* некульту́рны
**ignore** [ɪgˈnɔː] *v.* ігнарава́ць, не звярта́ць ува́гі (*на каго-н./што-н.*)
**ikebana** [ˌɪkɪˈbɑːnə] *n.* ікеба́на
**ikon** [ˈaɪkɒn] *n.* = **icon**
**ilk** [ɪlk] *n. infml* тып, гату́нак; **men of that ilk** лю́дзі тако́га ты́пу
**ill**[1] [ɪl] *n.* **1.** *fml* зло, лі́ха, няшча́сце, нава́ла **2.** *pl.* **ills** бядо́ты
**ill**[2] [ɪl] *adj.* **1.** хво́ры; **be ill** хварэ́ць; **fall ill** захварэ́ць **2.** дрэ́нны, ке́пскі, благі́; **ill effects** згу́бныя вы́нікі; **ill feeling(s)** варо́жасць; **ill fortune** няшча́сце; **ill health** сла́бае здаро́ўе; **ill humour/temper** дрэ́нны настро́й/хара́ктар; **ill luck** нешанцава́нне; няўда́ча; **ill will** не-прыя́знасць, нядобразычлі́васць ♦ **ill at ease** не па сабе́
**ill**[3] [ɪl] *adv.* дрэ́нна, ке́пска ♦ **speak ill of smb.** *fml* абгаво́рваць, зласло́віць
**I'll** [aɪl] *скар. ад* **: 1.** I will **2.** I shall
**ill-advised** [ˌɪlədˈvaɪzd] *adj.* неразу́мны
**ill-bred** [ˌɪlˈbred] *adj.* нявы́хаваны; гру́бы; **ill-bred children** нявы́хаваныя дзе́ці; **an ill-bred remark** гру́бая заўва́га
**ill-considered** [ˌɪlkənˈsɪdəd] *adj.* неабду́маны; **ill-considered advice** неабду́маная пара́да
**ill-disposed** [ˌɪldɪˈspəʊzd] *adj. fml* **(towards)** нядобразычлі́вы (*да каго-н.*)
**illegal** [ɪˈliːgl] *adj.* незако́нны; забаро́нены; нелега́льны
**illegality** [ˌɪliːˈgæləti] *n.* незако́ннасць, нелега́ль-насць
**illegally** [ɪˈliːgəli] *adv.* незако́нна, нелега́льна
**illegible** [ɪˈledʒəbl] *adj.* неразбо́рлівы, невыра́-зны, нечытэ́льны (*пра почырк*)
**illegibility** [ɪˌledʒəˈbɪləti] *n.* неразбо́рлівасць, невыра́знасць, нечытэ́льнасць (*пра почырк*)
**illegitimacy** [ˌɪləˈdʒɪtəməsi] *n.* **1.** незако́ннасць **2.** незаконнанаро́джанасць
**illegitimate** [ˌɪləˈdʒɪtəmət] *adj.* **1.** незако́нны **2.** незаконнанаро́джаны
**illegitimately** [ˌɪləˈdʒɪtəmətli] *adv.* незако́нна
**ill-fated** [ˌɪlˈfeɪtɪd] *adj. fml* няўда́члівы; няўда́ч-ны; злашча́сны
**illicit** [ɪˈlɪsɪt] *adj.* незако́нны, забаро́нены; **illicit trade in drugs** незако́нны га́ндаль нарко́-тыкамі
**ill-informed** [ˌɪlɪnˈfɔːmd] *adj.* дрэ́нна інфарма-ва́ны
**illiteracy** [ɪˈlɪtərəsi] *n.* непісьме́ннасць
**illiterate** [ɪˈlɪtərət] *adj.* непісьме́нны; неадука-ва́ны
**ill-judged** [ˌɪlˈdʒʌdʒd] *adj. fml* неабду́маны; **an ill-judged remark** неабду́маная заўва́га
**ill-mannered** [ˌɪlˈmænəd] *adj. fml* гру́бы, няве́т-лівы
**ill-natured** [ˌɪlˈneɪtʃəd] *adj. fml* злы, нядобра-зычлі́вы, лі́хі
**illness** [ˈɪlnəs] *n.* хваро́ба; захво́рванне
**illogical** [ɪˈlɒdʒɪkl] *adj.* нелагі́чны
**ill-starred** [ˌɪlˈstɑːd] *adj. fml* нешчаслі́вы; злашча́сны
**ill-tempered** [ˌɪlˈtempəd] *adj. fml* запа́льчывы; зласлі́вы
**ill-timed** [ˌɪlˈtaɪmd] *adj.* нясвоечасо́вы; няў-ча́сны
**ill-treat** [ˌɪlˈtriːt] *v.* дрэ́нна абыхо́дзіцца (*з кім-н.*)
**illuminate** [ɪˈluːmɪneɪt] *v.* **1.** асвятля́ць (*таксама перан.*) **2.** ілюмінава́ць **3.** *fml* растлума́чваць; высвятля́ць
**illuminating** [ɪˈluːmɪneɪtɪŋ] *adj.* ілюстрацы́йны; паказа́льны; **an illuminating remark** паву-ча́льная заўва́га
**illumination** [ɪˌluːmɪˈneɪʃn] *n.* **1.** асвятле́нне **2.** *pl.* **illuminations** *BrE* ілюміна́цыя
**illusion** [ɪˈluːʒn] *n.* ілю́зія, падма́н; **be under an illusion that...** це́шыць сябе́ ду́мкай, што…; **have no illusions about smth.** не мець ілю́зій нако́нт чаго́-н.

**illusionist** [ɪˈluːʒənɪst] *n.* ілюзіяніст; ілюзіяністка
**illusory** [ɪˈluːsəri] *adj. fml* ілюзо́рны
**illustrate** [ˈɪləstreɪt] *v.* **1.** ілюстрава́ць **2.** тлума́чыць
**illustration** [ˌɪləˈstreɪʃn] *n.* **1.** малю́нак, ілюстра́цыя **2.** тлумачэ́нне, пры́клад ♦ **by way of illustration** як пры́клад
**illustrative** [ˈɪləstrətɪv] *adj. fml* **1.** ілюстрацы́йны **2.** тлумача́льны, паясня́льны
**illustrator** [ˈɪləstreɪtə] *n.* маста́к-ілюстра́тар
**illustrious** [ɪˈlʌstriəs] *adj. fml* славу́ты, вядо́мы; знакамі́ты, слы́нны
**I'm** [aɪm] *скар. ад* I am
**image** [ˈɪmɪdʒ] *n.* **1.** во́браз; выя́ва; *He is the spitting image of his father.* Ён выліты бацька. **2.** адбітак (*у люстэрку*) **3.** рэпута́цыя, і́мідж **4.** ста́туя, скульпту́ра
**imagery** [ˈɪmɪdʒəri] *n. fml* во́бразнасць; сро́дкі во́бразнасці; **poetic imagery** паэты́чная во́бразнасць
**imaginable** [ɪˈmædʒɪnəbl] *adj.* які́ то́лькі мо́жна ўяві́ць; магчы́мы
**imaginary** [ɪˈmædʒɪnəri] *adj.* уя́ўны, вы́думаны
**imagination** [ɪˌmædʒɪˈneɪʃn] *n.* уяўле́нне, фанта́зія; *He has no imagination.* У яго няма фантазіі.
**imaginative** [ɪˈmædʒɪnətɪv] *adj.* надзе́лены ўяўле́ннем/фанта́зіяй
**imagine** [ɪˈmædʒɪn] *v.* **1.** уяўля́ць сабе́ **2.** меркава́ць, ду́маць; *I imagine it will rain.* Я мяркую, што пойдзе дождж. **3.** выдумля́ць; *You are always imagining things.* Вечна ты нешта выдумляеш.
**imbalance** [ɪmˈbæləns] *n.* адсу́тнасць раўнава́гі
**imbecile**[1] [ˈɪmbəsiːl] *n.* **1.** *infml* ду́рань, ідыёт **2.** *med.* імбецы́л
**imbecile**[2] [ˈɪmbəsiːl] *adj.* прыдуркава́ты; **an imbecile remark** бязглу́здая заўва́га
**imbed** [imˈbed] = **embed**
**imbued** [imˈbjuːd] *adj. fml* **(with)** напо́ўнены (*моцным пачуццём*)
**IMF** [ˌaɪemˈef] (*скар. ад* **International Monetary Fund**) МВФ, Міжнаро́дны валю́тны фонд (*пры ААН*)
**imitate** [ˈɪmɪteɪt] *v.* імітава́ць; пераймА́ць
**imitation** [ˌɪmɪˈteɪʃn] *n.* іміта́цыя; перайма́нне; **imitation leather** шту́чная sку́ра; **imitation jewellery** біжутэ́рыя
**imitative** [ˈɪmɪtətɪv] *adj.* імітацы́йны; перайма́льны
**imitator** [ˈɪmɪteɪtə] *n.* іміта́тар
**immaculate** [ɪˈmækjələt] *adj.* бездако́рны, беззага́нны; **immaculate behaviour** бездако́рныя паво́дзіны; **the Immaculate Conception** *eccl.* бязгрэ́шнае/няві́ннае зача́цце
**immanent** [ˈɪmənənt] *adj. fml* **1.** ста́лы; уласці́вы **2.** *philos.* імане́нтны
**immaterial** [ˌɪməˈtɪəriəl] *adj.* **1.** неісто́тны **2.** *fml* нематэрыя́льны
**immature** [ˌɪməˈtjʊə] *adj.* **1.** няспе́лы **2.** няста́лы
**immeasurable** [ɪˈmeʒərəbl] *adj. fml* непаме́рны, бязме́рны
**immediate** [ɪˈmiːdiət] *adj.* **1.** неадкла́дны, спе́шны **2.** непасрэ́дны, прамы́; найбліжэ́йшы; **my immediate neighbours** мае́ найбліжэ́йшыя сусе́дзі; **in the immediate future** у найбліжэ́йшай бу́дучыні, у найбліжэ́йшы час; **on his immediate left** адра́зу налЕ́ва ад яго́
**immediately** [ɪˈmiːdiətli] *adv.* **1.** неадкла́дна, адра́зу **2.** непасрэ́дна, пра́ма
**immemorial** [ˌɪməˈmɔːriəl] *adj. fml* спрадве́чны; **from time immemorial** спако́н ве́ку, спрадве́ку
**immense** [ɪˈmens] *adj.* вялі́кі, велізА́рны; бязме́рны
**immensely** [ɪˈmensli] *adv.* надзвыча́йна, надзвы́чай; **immensely popular** надзвы́чай папуля́рны
**immensity** [ɪˈmensəti] *n.* бязме́жнасць, неабся́жнасць; бязме́рнасць
**immerse** [ɪˈmɜːs] *v.* **(in)** **1.** апуска́ць (*у вадкасць*), акуна́ць **2.** паглыбля́цца; **immerse oneself in a book** паглыбля́цца ў чыта́нне
**immersion** [ɪˈmɜːʃn] *n.* апуска́нне (*у вадкасць*); паглыбле́нне
**immersion heater** [ɪˈmɜːʃnˌhiːtə] *n. BrE* электракіпяці́льнік
**immigrant** [ˈɪmɪgrənt] *n.* імігра́нт; імігра́нтка; перасяле́нец; перасяле́нка
**immigrate** [ˈɪmɪgreɪt] *v.* **(to, from)** іміграва́ць
**immigration** [ˌɪmɪˈgreɪʃn] *n.* іміграцыя
**imminent** [ˈɪmɪnənt] *adj.* непазбе́жны, неміну́чы (*пра небяспеку*); *A storm was imminent.* Насоўвалася навальніца.
**immobile** [ɪˈməʊbaɪl] *adj.* нерухо́мы
**immobility** [ˌɪməˈbɪləti] *n.* нерухо́масць
**immobilize,** *BrE* **-ise** [ɪˈməʊbəlaɪz] *v.* рабі́ць нерухо́мым; спыня́ць; паралізава́ць; *Our troops were immobilized.* Нашы войскі былі паралізаваны; *I was immobilized because of a broken leg.* Я не мог рухацца, бо ў мяне была зламана нага.
**immodest** [ɪˈmɒdɪst] *adj.* **1.** нясці́плы **2.** непрысто́йны; **immodest behaviour** непрысто́йныя паво́дзіны
**immoral** [ɪˈmɒrəl] *adj.* амара́льны, распу́сны, разбэ́шчаны

**immorality** [ˌɪməˈræləti] *n.* амара́льнасць, разбэ́шчанасць
**immortal** [ɪˈmɔːtl] *adj.* бессмяро́тны, ве́чны
**immortality** [ˌɪmɔːˈtæləti] *n.* бессмяро́тнасць
**immortalize,** *BrE* **-ise** [ɪˈmɔːtəlaɪz] *v.* увекаве́чваць
**immovable** [ɪˈmuːvəbl] *adj.* **1.** нерухо́мы **2.** непахі́сны
**immune** [ɪˈmjuːn] *adj.* **1.** *med.* **(to)** іму́нны; неўспрыма́льны (*таксама перан.*); **be immune to smallpox** вало́даць імуні́тэтам су́праць во́спы; **immune to criticism** неўспрыма́льны да кры́тыкі **2. (from)** абаро́нены; вы́звалены; **immune from taxes** вы́звалены ад пада́ткаў
**immune system** [ɪˈmjuːnˌsɪstəm] *n.* іму́нная сістэ́ма
**immunity** [ɪˈmjuːnəti] *n.* **1.** *med.* **(to)** імуні́тэт (*супраць чаго-н.*), неўспрыма́льнасць **2.** *law* **(from)** недатыка́льнасць; непадсу́днасць; **diplomatic immunity** дыпламаты́чны імуні́тэт
**immunization,** *BrE* **-isation** [ˌɪmjunaɪˈzeɪʃn] *n.* імуніза́цыя; вакцына́цыя
**immunize,** *BrE* **-ise** [ˈɪmjunaɪz] *v.* **(against)** імунізава́ць
**immunodeficiency** [ɪˌmjuːnəʊdɪˈfɪʃnsi] *n.* імунадэфіцы́т
**immunology** [ˌɪmjuˈnɒlədʒi] *n.* імунало́гія
**imp** [ɪmp] *n.* **1.** чарцяня́, чарцянё; нячы́сцік **2.** свяво́льнік, гарэ́знік, гарэ́за
**impact** [ˈɪmpækt] *n.* **1.** уда́р; сутыкне́нне; **on impact** пры сутыкне́нні **2. (on)** (моцнае) уздзе́янне, уплы́ў (*на каго-н., што-н.*); **have an impact on** мець/ака́зваць уздзе́янне на, уздзе́йнічаць
**impair** [ɪmˈpeə] *v. fml* псава́ць; пашко́джваць; падрыва́ць; **impaired hearing** пашко́джаны слых
**impale** [ɪmˈpeɪl] *v.* **(on) 1.** прако́лваць, пратыка́ць, праціна́ць **2.** *hist.* садзі́ць на кол
**impart** [ɪmˈpɑːt] *v. fml* **(to) 1.** надава́ць (*якую-н. якасць*), надзяля́ць **2.** дзялі́цца (*думкамі, навінамі і да т.п.*); *I have nothing of interest to impart to you.* Я не магу паведаміць вам нічога цікавага.
**impartial** [ɪmˈpɑːʃl] *adj.* бесстаро́нні, непрадузя́ты
**impassable** [ɪmˈpɑːsəbl] *adj.* непрахо́дны, непрае́зджы, непрае́зны
**impasse** [ˈæmpɑːs] *n.* тупі́к
**impassioned** [ɪmˈpæʃnd] *adj.* па́лкі; гара́чы; **an impassioned speech** па́лкая прамо́ва
**impassive** [ɪmˈpæsɪv] *adj.* абыя́кавы; бясстра́сны
**impatience** [ɪmˈpeɪʃns] *n.* нецярплі́васць; раздражне́нне
**impatient** [ɪmˈpeɪʃnt] *adj.* **(with, at)** нецярплі́вы; раздражнёны; **an impatient gesture** нецярплі́вы жэст
**impeach** [ɪmˈpiːtʃ] *v.* аб'яўля́ць імпі́чмент
**impeachment** [ɪmˈpiːtʃmənt] *n.* імпі́чмент
**impeccable** [ɪmˈpekəbl] *adj.* беззага́нны, бездако́рны; **an impeccable taste** бездако́рны густ
**impede** [ɪmˈpiːd] *v. fml* перашкаджа́ць; затры́мліваць
**impediment** [ɪmˈpedɪmənt] *n.* перашко́да; замі́нка; **a speech impediment** заіка́нне
**impel** [ɪmˈpel] *v.* вымуша́ць
**impending** [ɪmˈpendɪŋ] *adj.* наві́слы; **impending danger** наві́слая пагро́за
**impenetrable** [ɪmˈpenɪtrəbl] *adj.* непраніка́льны; непрагля́дны; **impenetrable darkness** непрагля́дная це́мра
**imperative**[1] [ɪmˈperətɪv] *n. ling.* зага́дны лад, імператы́ў
**imperative**[2] [ɪmˈperətɪv] *adj.* **1.** зага́дны; улада́рны **2.** неадкла́дны, пі́льны
**imperceptible** [ˌɪmpəˈseptəbl] *adj.* непрыкме́тны; нязна́чны; неадчува́льны
**imperfect**[1] [ɪmˈpɜːfɪkt] *n. ling.* **: the imperfect (tense)** імперфе́кт
**imperfect**[2] [ɪmˈpɜːfɪkt] *adj.* дэфекты́ўны, недаскана́лы
**imperfection** [ˌɪmpəˈfekʃn] *n.* недаскана́ласць; дэфе́кт, зага́на
**imperial** [ɪmˈpɪəriəl] *adj.* імпе́рскі; імпера́тарскі
**imperialism** [ɪmˈpɪəriəlɪzəm] *n.* імперыялі́зм
**imperialist** [ɪmˈpɪəriəlɪst] *n.* імперыялі́ст (*звыч. неадабральна*)
**imperialist(ic)** [ɪmˌpɪəriəˈlɪst(ɪk)] *adj.* імперыялісты́чны
**impersonal** [ɪmˈpɜːsənl] *adj.* **1.** аб'екты́ўны; непрадузя́ты **2.** безаблі́чны **3.** *ling.* безасабо́вы; **impersonal pronoun** безасабо́вы займе́ннік
**impersonate** [ɪmˈpɜːsəneɪt] *v.* ігра́ць ро́лю; выдава́ць сябе́ (*за каго-н.*); іміtава́ць
**impersonation** [ɪmˌpɜːsəˈneɪʃn] *n.* імітава́нне
**impersonator** [ɪmˈpɜːsəneɪtə] *n.* іміта́тар
**impertinence** [ɪmˈpɜːtɪnəns] *n.* дзёрзкасць; наха́бнасць, наха́бства, гру́басць
**impertinent** [ɪmˈpɜːtɪnənt] *adj.* дзёрзкі; наха́бны; **an impertinent question/child** дзёрзкае пыта́нне/дзіця́
**impetuous** [ɪmˈpetʃuəs] *adj.* імклі́вы, імпэ́тны
**impetus** [ˈɪmpɪtəs] *n.* **1.** ру́хаючая сі́ла; штуршо́к **2.** і́мпульс, сты́мул; **give a fresh impetus to smth.** даць но́вы і́мпульс чаму́-н.

**implacable** [ɪmˈplækəbl] *adj.* няўмо́льны; бязлі́тасны; **an implacable enemy** бязлі́тасны во́раг
**implant**[1] [ˈɪmplɑːnt] *n. med.* імплантáт
**implant**[2] [ɪmˈplɑːnt] *v. med.* імплантавáць
**implantation** [ˌɪmplɑːnˈteɪʃn] *n. med.* імплантáцыя
**implausible** [ɪmˈplɔːzəbl] *adj.* непраўдападо́бны, неймаве́рны
**implement**[1] [ˈɪmplɪmənt] *n.* прылáда, інструме́нт; **farming/gardening implements** сельскагаспадáрчыя/садо́ўніцкія прылáды
**implement**[2] [ˈɪmplɪment] *v.* выко́нваць, ажыццяўля́ць, здзяйсня́ць
**implicate** [ˈɪmplɪkeɪt] *v.* **(in)** уця́гваць
**implication** [ˌɪmplɪˈkeɪʃn] *n.* **1.** **(for, of)** імплікáцыя, вы́нік, рэзультáт; *This decision may have serious implications for their future.* Гэтае рашэнне можа сур'ёзна паўплываць на іх будучыню. **2.** уця́гванне; заме́шанасць, дачыне́нне **3.** (*скрыты*) сэнс; значэ́нне ♦ **by implication** уско́сна
**implicit** [ɪmˈplɪsɪt] *adj.* **1.** імпліцы́тны, скры́ты; які́ падразумявáецца **2.** безагаво́рачны; по́ўны
**implicitly** [ɪmˈplɪsɪtli] *adv.* **1.** імпліцы́тна, уско́сна **2.** по́ўнасцю, цáлкам
**implore** [ɪmˈplɔː] *v. fml* малі́ць, умаля́ць, упро́шваць
**imply** [ɪmˈplaɪ] *v.* падразумявáць; наво́дзіць на ду́мку; *What do his words imply?* Што ён мае на ўвазе?
**impolite** [ˌɪmpəˈlaɪt] *adj.* няве́тлівы
**impoliteness** [ˌɪmpəˈlaɪtnəs] *n.* няве́тлівасць
**import**[1] [ˈɪmpɔːt] *n.* **1.** і́мпарт, ўво́з **2.** *pl.* **imports** тавáры, што ўво́зяцца; **prohibited imports** тавáры, забаро́неныя для ўво́зу **3.** *fml* значэ́нне, сэнс
**import**[2] [ɪmˈpɔːt] *v.* **(from, into)** імпартавáць, уво́зіць
**importance** [ɪmˈpɔːtns] *n.* вáжнасць, знáчнасць; **be of importance** мець значэ́нне; **be of no importance** не мець значэ́ння; **attach importance (to)** надавáць значэ́нне (*чаму-н.*)
**important** [ɪmˈpɔːtnt] *adj.* вáжны, знáчны, істо́тны
**importer** [ɪmˈpɔːtə] *n.* імпарцёр
**impose** [ɪmˈpəʊz] *v.* **(on/upon)** **1.** абкладáць (*падаткам, штрафам і да т.п.*) **2.** навя́зваць (*рашэнне, думку і да т.п.*) **3.** падмáнваць, ашу́кваць; скарысто́ўваць (*каго-н./што-н. у сваіх мэтах*); *We have been imposed upon.* Нас ашукалі.
**imposing** [ɪmˈpəʊzɪŋ] *adj.* знáчны, уражáльны, імпазáнтны
**imposition** [ˌɪmpəˈzɪʃn] *n.* **1.** ускладáнне, накладáнне (*абавязку, штрафу і да т.п.*) **2.** абкладáнне, падáтак **3.** празме́рнае патрабавáнне
**impossibility** [ɪmˌpɒsəˈbɪləti] *n.* немагчы́масць, немажлі́васць
**impossible** [ɪmˈpɒsəbl] *adj.* немагчы́мы, немажлі́вы
**impostor, imposter** [ɪmˈpɒstə] *n.* самазвáнец; самазвáнка
**impotence** [ˈɪmpətəns] *n.* **1.** бяссі́льнасць **2.** *med.* імпатэ́нцыя
**impotent** [ˈɪmpətənt] *adj.* **1.** бяссі́льны **2.** *med.* імпатэ́нтны
**impoverish** [ɪmˈpɒvərɪʃ] *v.* абядня́ць, збядня́ць
**impoverished** [ɪmˈpɒvərɪʃt] *adj.* абядне́лы, збядне́лы
**impractical** [ɪmˈpræktɪkl] *adj.* невыканáльны, нездзяйсня́льны
**imprecise** [ˌɪmprəˈsaɪz] *adj.* недаклáдны; **imprecise information** недаклáдная інфармáцыя
**impregnate** [ˈɪmpregneɪt] *v.* **1.** **(with)** напаўня́ць, насычáць **2.** *fml* апладня́ць
**impresario** [ˌɪmprəˈsɑːriəʊ] *n.* імпрэсáрыа
**impress** [ɪmˈpres] *v.* **1.** рабі́ць урáжанне (*на каго-н.*); *His sincerity impressed me.* Яго шчырасць уразіла мяне. **2.** **(on/upon)** перако́нваць; угаво́рваць; *She impressed on us the need for caution.* Яна пераканала нас у неабходнасці асцярожнасці.
**impression** [ɪmˈpreʃn] *n.* **1.** **(of)** урáжанне; **create/make an impression on smb.** рабі́ць урáжанне на каго́-н., урáжваць; *I was under the impression that…* У мяне было такое ўражанне, што… **2.** адбі́так, след
**impressionable** [ɪmˈpreʃənəbl] *adj.* урáзлівы, успрымáльны
**Impressionism** [ɪmˈpreʃənɪzəm] *n.* імпрэсіяні́зм (*кірунак у мастацтве*)
**impressionist** [ɪmˈpreʃənɪst] *n.* **1.** імпрэсіяні́ст **2.** парады́ст
**impressionistic** [ˌɪmpreʃəˈnɪstɪk] *adj.* імпрэсіяністы́чны
**impressive** [ɪmˈpresɪv] *adj.* які́ ўрáжвае; уражáльны; вырáзны
**imprint**[1] [ˈɪmprɪnt] *n.* **1.** след, адбі́так **2.** пячáтка; **publisher's imprint** выхадны́я дáныя
**imprint**[2] [ɪmˈprɪnt] *v.* адбівáць, адціскáць
**imprison** [ɪmˈprɪzn] *v.* саджáць (*у турму*), зняво́льваць
**imprisonment** [ɪmˈprɪznmənt] *n.* зняво́ленне; **life imprisonment** пажыццёвае зняво́ленне
**improbable** [ɪmˈprɒbəbl] *adj.* невераго́дны, непраўдападо́бны

**impromptu** [ɪmˈprɒmptjuː] *adj.*, *adv.* імправізава́ны; экспро́мтам; без папярэ́дняй падрыхто́ўкі; *He made an impromptu speech.* Ён выступіў экспромтам.

**improper** [ɪmˈprɒpə] *adj.* **1.** *fml* неадпаве́дны, непрыда́тны **2.** непрысто́йны **3. : an improper fraction** *math*. няпра́вільны дроб

**impropriety** [ˌɪmprəˈpraɪəti] *n.* **1.** неадпаве́днасць **2.** непрысто́йнасць

**improve** [ɪmˈpruːv] *v.* паляпшა́ць; паляпша́цца; удасканаа́льваць; удасканаа́львацца; *Things are improving.* Справы наладжваюцца; *His health is improving.* Яго здароўе паляпшаецца.

**improvement** [ɪmˈpruːvmənt] *n.* пале́пшанне, удасканаа́льванне; *There has been an improvement in the weather.* Надвор'е палепшылася.

**improvisation** [ˌɪmprəvaɪˈzeɪʃn] *n.* імправіза́цыя

**improvise** [ˈɪmprəvaɪz] *v.* імправізава́ць

**imprudent** [ɪmˈpruːdənt] *adj.* неразва́жлівы, неразва́жны; неасцяро́жны

**impudent** [ˈɪmpjədənt] *adj. fml* дзёрзкі; бессаро́мны; **an impudent fellow** наха́бнік

**impulse** [ˈɪmpʌls] *n.* і́мпульс, пары́ў; **on (an) impulse** пад уздзе́яннем пары́ву

**impulsive** [ɪmˈpʌlsɪv] *adj.* **1.** імпульсі́ўны; **an impulsive child** імпульсі́ўнае дзіця́ **2.** які́ прымуша́е ру́хацца, дзе́йнічаць; **impulsive force** ру́хаючая сі́ла

**impunity** [ɪmˈpjuːnəti] *n. fml* беспакара́насць; **with impunity** беспакара́на

**impure** [ɪmˈpjʊə] *adj.* нячы́сты, бру́дны (*таксама перан.*); **impure thoughts** непрысто́йныя ду́мкі

**impurity** [ɪmˈpjʊərəti] *n.* нечыстата́, бруд

**in**[1] [ɪn] *n.* **:** *He knew all the* **ins and outs** *of the affair.* Ён ведаў усе хады і выхады.

**in**[2] [ɪn] *adv.* **1.** унутры́; *Is anyone in?* Ёсць тут хто-небудзь? **2.** до́ма; *We didn't find him in.* Мы не засталі яго дома. **3.** у мо́дзе; *Long skirts are in again.* Доўгія спадніцы зноў у модзе. **4. : be in** прыбыва́ць, прыхо́дзіць; *The train is in.* Цягнік прыйшоў; *The mail is in.* Пошта прыйшла.

**in**[3] [ɪn] *prep.* **1.** (*у прасторавым знач.*) у, на; пад; **in France** у Фра́нцыі; **in town** у го́радзе; **in the street** на ву́ліцы; **in the theatre** у тэа́тры; **in the factory** на заво́дзе **2.** (*у часавым знач.*) у; праз; за; **in the twentieth century** у дваццатым стаго́ддзі; **in May** у ма́і; **in peacetime** у мі́рны час; **in future** у бу́дучыні; **in an hour** праз гадзі́ну; *He is in his fifties.* Яму за пяцьдзясят. **3.** (*у розных знач.*: *перадаецца тв. скл. з прыназоўнікам або прыслоўем*) **in winter/summer** зімо́й/уле́тку; **in the morning/evening** ра́ніцай/увे́чары; **in pairs** па́рамі; **in a whisper** шэ́птам; **in detail** дэталёва; **in Belarusian** па-белару́ску; **in the rain** пад дажджо́м

**in.** (*пісьмовае скар. ад* **inch**) ца́ля (*2,54 см*)

**inability** [ˌɪnəˈbɪləti] *n.* няздо́льнасць; немагчы́масць

**inaccessible** [ˌɪnəkˈsesəbl] *adj.* **(to)** недасту́пны, непрысту́пны

**inaccuracy** [ɪnˈækjərəsi] *n.* недакла́днасць, памылко́васць; памы́лка

**inaccurate** [ɪnˈækjərət] *adj.* недакла́дны, памылко́вы

**inaction** [ɪnˈækʃn] *n.* бяздзе́йнасць

**inactive** [ɪnˈæktɪv] *adj.* бяздзе́йны; іне́ртны; **an inactive volcano** нядзе́ючы вулка́н

**inactivity** [ˌɪnækˈtɪvəti] *n.* бяздзе́йнасць; іне́ртнасць

**inadequacy** [ɪnˈædɪkwəsi] *n.* **(of)** неадэква́тнасць, неадпаве́днасць

**inadequate** [ɪnˈædɪkwət] *adj.* **1.** недастатко́вы; неадэква́тны **2.** няздо́льны

**inadvertent** [ˌɪnədˈvɜːtənt] *adj.* ненаўмы́сны

**inadvisable** [ˌɪnədˈvaɪzəbl] *adj.* немэтазго́дны, непажада́ны

**inalienable** [ɪnˈeɪliənəbl] *adj. fml* неад'е́мны; **an inalienable right** неад'е́мнае пра́ва

**inane** [ɪˈneɪn] *adj.* бязглу́зды, пусты́, недарэ́чны; **an inane remark** недарэ́чная заўва́га

**inanimate** [ɪnˈænɪmət] *adj.* неадушаўлёны; **an inanimate noun** *ling.* неадушаўлёны назо́ўнік

**inanity** [ɪˈnænəti] *n.* бязглу́здасць, пустата́, недарэ́чнасць

**inappropriate** [ɪnəˈprəʊpriət] *adj.* недарэ́чны; неадпаве́дны

**inarticulate** [ˌɪnɑːˈtɪkjələt] *adj.* невыра́зны, неразбо́рлівы, незразуме́лы; косназязы́кі

**inasmuch as** [ˌɪnəzˈmʌtʃəz] *conj. fml* таму́ што, бо, пако́лькі; *He was a very unusual musician inasmuch as he was totally deaf.* Ён быў вельмі незвычайны музыкант, паколькі быў зусім глухі.

**inattentive** [ˌɪnəˈtentɪv] *adj.* няўва́жлівы

**inaudible** [ɪnˈɔːdəbl] *adj.* нячу́тны

**inaugural** [ɪˈnɔːgjərəl] *adj.* інаўгурацы́йны; усту́пны; **an inaugural speech** усту́пная прамо́ва

**inaugurate** [ɪˈnɔːgjəreɪt] *v.* **1.** адкрыва́ць (*новы будынак, цырымонію і да т.п.*) **2.** уво́дзіць (*рэформы і да т.п.*)

**inauguration** [ɪˌnɔːgjəˈreɪʃn] *n.* інаўгура́цыя; **the president's inauguration** інаўгура́цыя прэзідэ́нта

**inauspicious** [ˌɪnɔːˈspɪʃəs] *adj. fml* **1.** злаве́сны **2.** няшча́сны

**inborn** [ˌɪnˈbɔːn] *adj.* прыро́джаны; прыро́дны; **an inborn gift** прыро́дны та́лент

**inbox** [ˈɪnbɒks] *n. comput.* скры́нка для ўвахо́дных паведамле́нняў, скры́нка электро́ннай по́шты

**Inc., inc** *AmE* (*пісьмовае скар. ад* **Incorporated**) *ужываецца пасля назвы кампаніі, звыч. не перакладаецца*

**incalculable** [ɪnˈkælkjələbl] *adj. fml* незлічо́ны

**incapable** [ɪnˈkeɪpəbl] *adj.* **(of)** нязд́ольны

**incapacitate** [ˌɪnkəˈpæsɪteɪt] *v. fml* рабі́ць нязд́ольным; вывóдзіць са стро́ю

**incapacity** [ˌɪnkəˈpæsəti] *n.* нязд́ольнасць

**incarnate[1]** [ɪnˈkɑːnət] *adj. fml* увасо́блены; *He is the devil incarnate.* Ён проста д'ябал; **happiness/modesty incarnate** увасабле́нне шча́сця/сці́пласці

**incarnate[2]** [ˈɪnkɑːneɪt] *v. fml* увасабля́ць

**incarnation** [ˌɪnkɑːˈneɪʃn] *n.* увасабле́нне

**incautious** [ɪnˈkɔːʃəs] *adj. fml* неасцяро́жны

**incendiary[1]** [ɪnˈsendiəri] *n.* запа́льная бо́мба

**incendiary[2]** [ɪnˈsendiəri] *adj.* запа́льны

**incense[1]** [ˈɪnsens] *n.* ла́дан, фімія́м

**incense[2]** [ɪnˈsens] *v.* прыво́дзіць у лю́тасць, раз'ю́шваць

**incentive** [ɪnˈsentɪv] *n.* **(for, to)** сты́мул; заахво́чванне; **economic/finance incentives** эканамі́чныя/фіна́нсавыя сты́мулы; **tax incentives** падатко́выя заахво́чванні; **create/provide an incentive** ствара́ць/забяспе́чваць сты́мул; *I've got no incentive to do that.* У мяне няма стымулу рабіць гэта.

**incessant** [ɪnˈsesnt] *adj.* бесперапы́нны, безупы́нны (*пра шум, дождж, балбатню*); **incessant rain** бяско́нцы дождж

**incest** [ˈɪnsest] *n.* інцэ́ст, кровазмяшэ́нне

**inch[1]** [ɪntʃ] *n.* **1.** ца́ля (*2,54 см*); *The trousers were an inch too long.* Штаны былі на два з паловай сантыметры даўжэйшыя, чым трэба. **2.** ве́льмі мала́я адле́гласць або́ ко́лькасць; *The truck missed us by inches.* Грузавік ледзь не наехаў на нас. ♦ **every inch** ца́лкам, по́ўнасцю; **inch by inch** ма́ла-пама́лу; ве́льмі паво́льна; **not budge/give/move an inch** не ўступа́ць ні на ёту; *He looked every inch a sailor.* Ён выглядаў мараком з галавы да пят.

**inch[2]** [ɪntʃ] *v.* паво́льна ру́хацца; няспе́шна рабі́ць (*што-н.*); *The car began to inch forward.* Машына павольна рушыла ўперад.

**incidence** [ˈɪnsɪdəns] *n.* **(of)** ахо́п; сфе́ра дзе́яння

**incident** [ˈɪnsɪdənt] *n.* вы́падак, здарэ́нне; інцыдэ́нт

**incidental** [ˌɪnsɪˈdentl] *adj.* выпадко́вы; пабо́чны, нязна́чны

**incidentally** [ˌɪnsɪˈdentli] *adv.* дарэ́чы, між і́ншым; *Incidentally, I wanted to tell you…* Дарэчы, я хацеў сказаць вам…

**incinerate** [ɪnˈsɪnəreɪt] *v.* спапяля́ць; спа́льваць дашчэ́нту

**incineration** [ɪnˌsɪnəˈreɪʃn] *n.* спапяле́нне; спа́льванне

**incinerator** [ɪnˈsɪnəreɪtə] *n.* **1.** печ для спа́львання сме́цця **2.** крэмацы́йная печ

**incision** [ɪnˈsɪʒn] *n. med.* надрэ́з

**incisive** [ɪnˈsaɪsɪv] *adj.* во́стры; праніклівы; **an incisive mind** во́стры ро́зум

**incisor** [ɪnˈsaɪzə] *n.* разе́ц (*пярэдні зуб*)

**incite** [ɪnˈsaɪt] *v.* **(to)** падбухто́рваць, правакава́ць (*каго-н. на што-н.*)

**incitement** [ɪnˈsaɪtmənt] *n.* **(to)** падбухто́рванне, правакава́нне (*каго-н. на што-н.*)

**incl., inc.** (*пісьмовае скар. ад* **including**) уключа́ючы; уклю́чна, у тым лі́ку

**inclement** [ɪnˈklemənt] *adj. fml* суро́вы; непаго́дны; **inclement weather** не́пагадзь

**inclination** [ˌɪnklɪˈneɪʃn] *n.* **1. (towards/for)** схі́льнасць, жада́нне **2.** *fml* нахі́л; **an inclination of the head** ківо́к галавы́

**incline[1]** [ˈɪnklaɪn] *n. fml* нахі́л, схіл

**incline[2]** [ɪnˈklaɪn] *v.* **1.** *fml* схіля́ць; схіля́цца; нагіна́цца; **incline the head** схіля́ць галаву́ **2. : be inclined** быць схі́льным; мець схі́льнасць; *I am inclined to believe her.* Я схільны верыць ёй; *The boy is inclined to be lazy.* Хлопец схільны да ляноты.

**include** [ɪnˈkluːd] *v.* уключа́ць, змяшча́ць; *Does the price include tax?* Ці ўключаны ў цану падатак?

**including** [ɪnˈkluːdɪŋ] *prep.* уклю́чна, у тым лі́ку; **up to and including the 5th of June** да пя́тага чэ́рвеня ўклю́чна; **all of us including me** усе́ мы, у тым лі́ку і я

**inclusion** [ɪnˈkluːʒn] *n.* уключэ́нне

**inclusive** [ɪnˈkluːsɪv] *adj.* **1.** які́/што ўключа́е; **inclusive payment/price** пла́та/цана́, што ўключа́е ўсе паслу́гі (*у гатэлі, рэстаране і да т.п.*) **2. (from... to)** уклю́чна; **from the first of March to the tenth inclusive** з пе́ршага сакавіка́ па дзяся́тае ўклю́чна

**incognito** [ˌɪnkɒgˈniːtəʊ] *adv.* інко́гніта

**incoherent** [ˌɪnkəʊˈhɪərənt] *adj.* **1.** бязла́дны, няскла́дны, без су́вязі **2.** незразуме́лы; непаслядо́ўны; **an incoherent policy** непаслядо́ўная палі́тыка; *He was quite incoherent.* Яго немагчыма было зразумець.

**income** [ˈɪnkʌm, ˈɪnkəm ] *n.* дахо́д; **an income tax** падахо́дны пада́так

**incoming** [ˈɪnkʌmɪŋ] *adj.* **1.** які́ ўвахо́дзіць, набліжа́ецца; **the incoming tide** прылі́ў **2. : the incoming president** новаабра́ны прэзідэ́нт
**incomparable** [ɪnˈkɒmprəbl] *adj.* непараўна́льны
**incomparably** [ɪnˈkɒmprəbli] *adv.* непараўна́льна
**incompatible** [ˌɪnkəmˈpætəbl] *adj.* **(with)** несумяшча́льны
**incompetence** [ɪnˈkɒmpɪtəns] *n.* некампетэ́нтнасць; нязды́льнасць
**incompetent** [ɪnˈkɒmpɪtənt] *adj.* некампетэ́нтны; нязды́льны
**incomplete** [ˌɪnkəmˈpliːt] *adj.* няпо́ўны
**incomprehensible** [ɪnˌkɒmprɪˈhensəbl] *adj.* незразуме́лы
**inconceivable** [ˌɪnkənˈsiːvəbl] *adj.* неймаве́рны, невераго́дны
**inconclusive** [ˌɪnkənˈkluːsɪv] *adj.* неперакана́ўчы, нерашу́чы
**incongruous** [ɪnˈkɒŋgruəs] *adj.* неадпаве́дны, непрыда́тны, нязру́чны; недарэ́чны
**inconsequential** [ɪnˌkɒnsɪˈkwenʃl] *adj.* неісто́тны, нява́жны
**inconsiderate** [ˌɪnkənˈsɪdərət] *adj.* няўва́жлівы (*да іншых*)
**inconsistent** [ˌɪnkənˈsɪstənt] *adj.* непаслядо́ўны; супярэ́члівы
**inconsolable** [ˌɪnkənˈsəʊləbl] *adj.* няўце́шны
**inconspicuous** [ˌɪnkənˈspɪkjuəs] *adj.* непрыкме́тны, непрыме́тны
**inconvenience** [ˌɪnkənˈviːniəns] *n.* нязру́чнасць, невыго́да
**inconvenient** [ˌɪnkənˈviːniənt] *adj.* нязру́чны; **an inconvenient time/place** нязру́чны час, нязру́чнае ме́сца
**incorporate** [ɪnˈkɔːpəreɪt] *v.* **(in/into/within) 1.** уключа́ць; далуча́ць (*да чаго-н.*); *His suggestions were incorporated in the plan.* Яго прапановы ўключылі ў план. **2.** *econ.* рэгістрава́ць як карпара́цыю
**incorporation** [ɪnˌkɔːpəˈreɪʃn] *n.* **1.** уключэ́нне, далучэ́нне **2.** *econ.* інкарпара́цыя
**incorrect** [ˌɪnkəˈrekt] *adj.* няпра́вільны, памылко́вы
**incorrigible** [ɪnˈkɒrɪdʒəbl] *adj.* непапра́ўны; **an incorrigible liar** безнадзе́йны падма́ншчык, страшэ́нны хлус
**incorruptible** [ˌɪnkəˈrʌptəbl] *adj.* непадку́пны
**increase**[1] [ˈɪŋkriːs] *n.* павелічэ́нне; рост; **a pay increase** павелічэ́нне зарабо́тнай пла́ты; **be on the increase** павялі́чвацца, узраста́ць; *Crime is on the increase.* Павялічваецца колькасць злачынстваў.
**increase**[2] [ɪnˈkriːs] *v.* павялі́чваць; павялі́чвацца, узраста́ць; **increase prices** павыша́ць цэ́ны; **increase speed** паскара́ць ход
**incredible** [ɪnˈkredəbl] *adj.* **1.** неймаве́рны, невераго́дны **2.** *infml* цудо́ўны
**incredulous** [ɪnˈkredjələs] *adj.* недаве́рлівы; **an incredulous look** недаве́рлівы/скепты́чны по́зірк
**increment** [ˈɪŋkrəmənt] *n.* прыба́ўка (*да зарплаты*); павелічэ́нне
**incriminate** [ɪnˈkrɪmɪneɪt] *v.* інкрымінава́ць
**incrimination** [ɪnˌkrɪmɪˈneɪʃn] *n.* інкрыміна́цыя
**incubate** [ˈɪŋkjubeɪt] *v.* **1.** выво́дзіць птушаня́т у інкуба́тары **2.** высе́джваць (*птушанят, кураня́т*)
**incubation** [ˌɪŋkjuˈbeɪʃn] *n.* **1.** інкуба́цыя; шту́чнае вывядзе́нне птушаня́т **2. : incubation period** *med., biol.* скры́ты перы́яд хваро́бы
**incubator** [ˈɪŋkjubeɪtə] *n.* інкуба́тар
**incumbent** [ɪnˈkʌmbənt] *adj.* **: the incumbent president** цяпе́рашні прэзідэ́нт
**incur** [ɪnˈkɜː] *v. fml* накліка́ць на сябе́; *He incurred heavy expenses.* Ён панёс вялікія страты.
**incurable** [ɪnˈkjʊərəbl] *adj.* невыле́чны; **an incurable disease** невыле́чная хваро́ба
**incurious** [ɪnˈkjʊəriəs] *adj. fml* абыя́кавы; неціка́ўны
**incursion** [ɪnˈkɜːʃn] *n. fml* рапто́ўны напа́д/налёт; уварва́нне
**indebted** [ɪnˈdetɪd] *adj.* **(to, for) 1.** у даўгу́; *He was indebted to the bank.* Ён завінаваціўся банку; *How much am I indebted to you?* Колькі я вам вінен? **2.** *fml* абавя́заны, удзя́чны; *I am greatly indebted to you for your assistance.* Я вам вельмі ўдзячны за дапамогу.
**indecent** [ɪnˈdiːsnt] *adj.* **1.** непрысто́йны; **an indecent remark** непрысто́йная заўва́га; **an indecent joke** непрысто́йны жарт **2.** неналя́жны; *He left us with indecent haste.* Ён развітаўся з намі занадта хутка.
**indecipherable** [ˌɪndɪˈsaɪfrəbl] *adj.* неразбо́рлівы (*почырк, подпіс і да т.п.*)
**indecision** [ˌɪndɪˈsɪʒn] *n.* **1.** нерашу́часць **2.** няпэ́ўнасць, неперакана́ўчасць
**indecisive** [ˌɪndɪˈsaɪsɪv] *adj.* **1.** нерашу́чы (*пра чалавека*) **2.** няпэ́ўны, неперакана́ўчы; **an indecisive answer** няпэ́ўны адка́з; **indecisive evidence** неперакана́ўчы до́каз
**indeed** [ɪnˈdiːd] *adv.* **1.** на са́май спра́ве, сапраўды́; *Are you pleased with your work? – Yes, indeed.* Вы задаволены сваёй працай? – Безумоўна. **2.** *BrE* надзвы́чай; *We enjoyed the film very much indeed.* Фільм нам надзвычай спадабаўся.

**indefatigable** [ˌɪndɪˈfætɪɡəbl] *adj. fml* нясто́мны
**indefinite** [ɪnˈdefɪnət] *adj.* няпэ́ўны, нявы́значаны; **the indefinite article** *ling.* неазнача́льны арты́кль; **an indefinite pronoun** *ling.* неазнача́льны займе́ннік
**indefinitely** [ɪnˈdefɪnətli] *adv.* бяско́нца; *You can keep the book indefinitely.* Вы можаце трымаць кнігу неабмежаваны час.
**indelible** [ɪnˈdeləbl] *adj.* **1.** незабы́ўны; **an indelible impression** незабы́ўнае глыбо́кае ўра́жанне **2.** нязмы́ўны (*таксама перан.*); **indelible ink** нязмы́ўнае чарні́ла; **an indelible shame** нязмы́ўная га́ньба
**indelicate** [ɪnˈdelɪkət] *adj. fml* недаліка́тны; нетакто́ўны, бестакто́ўны; бяста́ктны; **an indelicate remark** бестакто́ўная заўва́га
**indent** [ɪnˈdent] *v.* **1.** вышчэ́рбліваць, назу́бліваць, выраза́ць; выдзёўбваць **2.** склада́ць (*дакумент*) у двух экзэмпля́рах **3.** піса́ць/друкава́ць з во́дступам; *Each paragraph is indented.* Кожны абзац пачынаецца з новага радка.
**indentation** [ˌɪndenˈteɪʃn] *n.* **1.** зубе́ц, вы́раз, шчарбі́на **2.** зві́ліна, вы́гін (*берагавой лініі*)
**independence** [ˌɪndɪˈpendəns] *n.* **(from)** незале́жнасць; самасто́йнасць; **Independence Day** Дзень незале́жнасці (*ЗША, 4 ліпеня*)
**independent** [ˌɪndɪˈpendənt] *adj.* **(from/of) 1.** незале́жны; самасто́йны; **an independent state** незале́жная дзяржа́ва; **an independent income** самасто́йны дахо́д **2.** *ling.* **independent clause** незале́жны/гало́ўны сказ
**independently** [ˌɪndɪˈpendəntli] *adv.* незале́жна; самасто́йна; паасо́бку; *They travelled independently.* Яны падарожнічалі паасобку.
**indescribable** [ˌɪndɪˈskraɪbəbl] *adj.* неапіса́льны; невыка́зны, невымо́ўны
**indestructible** [ˌɪndɪˈstrʌktəbl] *adj.* неразбура́льны, непару́шны
**indeterminate** [ˌɪndɪˈtɜːmɪnət] *adj.* **1.** нявы́значаны; няпэ́ўны; неканчатко́вы **2.** *math.* **indeterminate equation** неазнача́льнае ўраўне́нне
**index¹** [ˈɪndeks] *n.* **1.** (*pl.* **indexes**) катало́г; алфаві́тны спіс; **subject index** прадме́тны паказа́льнік **2.** (*pl.* **indexes** *or* **indices**) і́ндэкс; каэфіцые́нт; **price index** і́ндэкс цэн
**index²** [ˈɪndeks] *v.* **1.** запі́сваць, зано́сіць (*у спіс*) **2.** індэксава́ць
**indexation** [ˌɪndekˈseɪʃn] *n.* індэксава́нне
**index finger** [ˈɪndeksˌfɪŋɡə] *n.* указа́льны па́лец
**Indian¹** [ˈɪndiən] *n.* **1.** інды́ец; індыя́нка (*пра жыхароў Індыі*) **2.** індзе́ец; індыя́нка (*пра карэнных жыхароў Амерыкі*)
**Indian²** [ˈɪndiən] *adj.* **1.** інды́йскі **2.** індзе́йскі
**Indian summer** [ˌɪndiənˈsʌmə] *n.* ба́біна ле́та
**indicate** [ˈɪndɪkeɪt] *v.* **1.** пака́зваць **2.** абазнача́ць; све́дчыць; *His words indicated a willingness to assist.* Яго словы сведчылі аб жаданні дапамагчы.
**indication** [ˌɪndɪˈkeɪʃn] *n.* све́дчанне, знак; паказа́нне
**indicative¹** [ɪnˈdɪkətɪv] *n. ling.* **the indicative** індыкаты́ў, абве́сны лад
**indicative²** [ɪnˈdɪkətɪv] *adj.* **1.** *fml* **(of)** які́ пака́звае, све́дчыць **2.** *ling.* абве́сны; **the indicative mood** абве́сны лад
**indicator** [ˈɪndɪkeɪtə] *n.* **1.** стрэ́лка; паказа́льнік **2.** *tech., chem.* індыка́тар
**indices** [ˈɪndɪsiːz] *pl.* → **index**
**indifference** [ɪnˈdɪfrəns] *n.* **(to)** абыя́кавасць, раўнаду́шша; *He showed complete indifference to everyone around him.* Ён праяўляў поўнае раўнадушша да ўсіх вакол.
**indifferent** [ɪnˈdɪfrənt] *adj.* **(to)** абыя́кавы, раўнаду́шны
**indigenous** [ɪnˈdɪdʒənəs] *adj. fml* **(to)** мясцо́вы, тутэ́йшы, тузе́мны; **indigenous population** карэ́ннае насе́льніцтва; **animals indigenous to Africa** жывёлы, што во́дзяцца ў Афрыцы
**indigestion** [ˌɪndɪˈdʒestʃən] *n.* нястра́ўнасць, расстро́йства стра́ўніка
**indignant** [ɪnˈdɪɡnənt] *adj.* **(at/about)** абу́раны; **be indignant at smth.** абура́цца чым-н.
**indignation** [ˌɪndɪɡˈneɪʃn] *n.* **(at/about)** абурэ́нне
**indigo¹** [ˈɪndɪɡəʊ] *n.* інды́га, цёмна-сі́ні (*колер, фарба*)
**indigo²** [ˈɪndɪɡəʊ] *adj.* інды́гавы, цёмна-сі́ні; **indigo blue** сі́не-фіяле́тавы
**indirect** [ˌɪndəˈrekt] *adj.* непрамы́; ускo̍сны; **an indirect answer** ухі́лісты/уні́клівы адка́з; **an indirect route** абхо́дны шлях; **indirect taxes** ускo̍сныя пада́ткі
**indirect object** [ˌɪndərektˈɒbdʒɪkt] *n. ling.* уско́снае дапаўне́нне
**indirect speech** [ˌɪndərektˈspiːtʃ] *n. ling.* уско́сная мо́ва
**indiscipline** [ɪnˈdɪsɪplɪn] *n. fml* недысцыплінава́насць
**indiscreet** [ˌɪndɪˈskriːt] *adj.* **1.** неасцяро́жны, неаба́члівы **2.** нясці́плы; нетакто́ўны; **an indiscreet question** нетакто́ўнае пыта́нне
**indiscretion** [ˌɪndɪˈskreʃn] *n.* **1.** неасцяро́жны ўчы́нак; *He committed an indiscretion.* Ён прагаварыўся. **2.** нясці́пласць
**indiscriminate** [ˌɪndɪˈskrɪmɪnət] *adj* непатрабава́льны, неперабо́рлівы; бязла́дны
**indiscriminately** [ˌɪndɪˈskrɪmɪnətli] *adv.* сумбу́рна, бязла́дна

**indispensable** [ˌɪndɪˈspensəbl] *adj.* **(to)** (абсалю́тна) неабхо́дны; незаме́нны; *Air is indispensable to life.* Паветра неабходна для жыцця.
**indisposed** [ˌɪndɪˈspəʊzd] *adj. fml* нездаро́вы
**indisputable** [ˌɪndɪˈspjuːtəbl] *adj.* бясспрэ́чны; **an indisputable fact** бясспрэ́чны факт
**indistinct** [ˌɪndɪˈstɪŋkt] *adj.* невыра́зны, няя́сны; расплы́вісты, расплы́ўчаты
**indistinguishable** [ˌɪndɪˈstɪŋgwɪʃəbl] *adj.* нераспазнава́льны; неадме́тны; невыра́зны
**individual**[1] [ˌɪndɪˈvɪdʒuəl] *n.* індыві́дуум, інды-ві́д, асо́ба
**individual**[2] [ˌɪndɪˈvɪdʒuəl] *adj.* індывідуа́льны, асабі́сты
**individualism** [ˌɪndɪˈvɪdʒuəlɪzəm] *n.* індывідуалі́зм
**individuality** [ˌɪndɪˌvɪdʒuˈæləti] *n.* індывідуа́льнасць
**individualize** [ˌɪndɪˈvɪdʒuəlaɪz] *v.* рабі́ць індывідуа́льным, надава́ць своеасаблі́вы хара́ктар
**indivisible** [ˌɪndɪˈvɪzəbl] *adj.* непадзе́льны
**indoctrinate** [ɪnˈdɒktrɪneɪt] *v.* падвярга́ць ідэалагі́чнай апрацо́ўцы
**indoctrination** [ɪnˌdɒkrɪˈneɪʃn] *n.* ідэалагі́чная апрацо́ўка
**Indo-European** [ˌɪndəʊˌjʊərəˈpiːən] *adj.* індаеўрапе́йскі
**indoor** [ˌɪnˈdɔː] *adj.* ха́тні, пакаёвы; **indoor clothes** ха́тняе адзе́нне, ха́тняя адзе́жа; **indoor games** гу́льні ў памяшка́нні/спарты́ўнай за́ле; **an indoor swimming pool** закры́ты басе́йн
**indoors** [ˌɪnˈdɔːz] *adv.* у до́ме, у памяшка́нні
**induce** [ɪnˈdjuːs] *v.* **1.** *fml* прымуша́ць **2.** *med.* стымулява́ць (*роды*) **3.** заахво́чваць; схіля́ць; уплыва́ць, перако́нваць
**inducement** [ɪnˈdjuːsmənt] *n.* сты́мул; **financial inducements** фіна́нсавыя сты́мулы
**inductance** [ɪnˈdʌktəns] *n. phys.* індукты́ўнасць
**induction** [ɪnˈdʌkʃn] *n.* інду́кцыя (*у розных знач.*)
**indulge** [ɪnˈdʌldʒ] *v.* **1.** патура́ць **2. (in)** дазваля́ць сабе́, не адмаўля́ць сабе́ (*у асалодзе*); *Only rarely could he indulge in a glass of wine.* Толькі зрэдку ён мог дазволіць сабе выпіць чарку віна.
**indulgence** [ɪnˈdʌldʒəns] *n.* **(to/towards)** патура́нне, пабла́жка; *Smoking is his only indulgence.* Курэнне – адзінае, што ён сабе дазваляе.
**indulgent** [ɪnˈdʌldʒənt] *adj.* пабла́жлівы, спага́длівы; **indulgent parents** не ве́льмі стро́гія бацькі́
**industrial** [ɪnˈdʌstriəl] *adj.* прамысло́вы; вытво́рчы; **industrial goods** прамысло́выя тава́ры; **an industrial action** забасто́ўка, страйк; **an industrial estate** прамысло́вая зо́на (*часта на ўскраіне горада*)
**industrialist** [ɪnˈdʌstriəlɪst] *n.* прамысло́вец
**industrialization,** *BrE* **-isation** [ɪnˌdʌstriəlaɪˈzeɪʃn] *n.* індустрыяліза́цыя
**industrialize,** *BrE* **-ise** [ɪnˈdʌstriəlaɪz] *v.* індустрыялізава́ць
**industrious** [ɪnˈdʌstriəs] *adj.* працаві́ты, стара́нны, руплі́вы
**industry** [ˈɪndəstri] *n.* прамысло́васць; галіна́ прамысло́васці; **heavy/engineering/food industry** ця́жкая/машынабудаўні́чая/харчо́вая прамысло́васць
**inedible** [ɪnˈedəbl] *adj.* неядо́мы, непрыда́тны для е́жы
**ineffective** [ˌɪnɪˈfektɪv] *adj.* нядзе́йсны, безвыніко́вы, дарэ́мны
**ineffectual** [ˌɪnɪˈfektʃuəl] *adj. fml* безвыніко́вы, няўда́лы; **an ineffectual person** няўда́чнік
**inefficient** [ˌɪnɪˈfɪʃnt] *adj.* **1.** няздо́льны, нязда́тны, няўме́лы; **an inefficient government** няздо́льны ўрад **2.** нядзе́йсны; малапрадукты́ўны; **inefficient use of energy** малапрадукты́ўнае скарыста́нне эне́ргіі
**inelegant** [ɪnˈelɪgənt] *adj.* неэлега́нтны
**ineligible** [ɪnˈelɪdʒəbl] *adj.* **(for)** непрыда́тны, непрыго́дны
**inept** [ɪˈnept] *adj.* няўме́лы; нязгра́бны; недарэ́чны; **an inept remark** недарэ́чная заўва́га
**inequality** [ˌɪnɪˈkwɒləti] *n.* няро́ўнасць, несправядлі́васць
**inert** [ɪˈnɜːt] *adj.* **1.** *fml* вя́лы, пасі́ўны, бяздзе́йны **2.** *phys.* іне́ртны, неакты́ўны
**inertia** [ɪˈnɜːʃə] *n.* **1.** вя́ласць, пасі́ўнасць, бяздзе́йнасць **2.** *phys.* іне́рцыя, іне́ртнасць; **through inertia** па іне́рцыі
**inescapable** [ˌɪnɪˈskeɪpəbl] *adj.* неміну́чы, непазбе́жны, няўхі́льны
**inessential** [ˌɪnɪˈsenʃl] *adj.* неісто́тны, нява́жны
**inestimable** [ɪnˈestɪməbl] *adj. fml* неацэ́нны
**inevitable**[1] [ɪnˈevɪtəbl] *n.* **the inevitable** неміну́часць, непазбе́жнасць
**inevitable**[2] [ɪnˈevɪtəbl] *adj.* неміну́чы, непазбе́жны
**inexact** [ˌɪnɪgˈzækt] *adj.* недакла́дны
**inexcusable** [ˌɪnɪkˈskjuːzəbl] *adj.* недарава́льны; **inexcusable behaviour** недарава́льныя паво́дзіны
**inexhaustible** [ˌɪnɪgˈzɔːstəbl] *adj.* **1.** невычэ́рпны, невычарпа́льны; **inexhaustible energy** невычэ́рпная эне́ргія; **inexhaustible patience** бяско́нцае цярпе́нне; **an inexhaustible supply** невычэ́рпны запа́с **2.** нясто́мны

**inexpedient** [ˌɪnɪkˈspiːdiənt] *adj.* немэтазго́дны
**inexpensive** [ˌɪnɪkˈspensɪv] *adj.* недарагі́, та́нны
**inexperience** [ˌɪnɪkˈspɪəriəns] *n.* нявóпытнасць, неспрактыкава́насць
**inexperienced** [ˌɪnɪkˈspɪəriənst] *adj.* нявóпытны, неспрактыкава́ны
**inexpert** [ɪnˈekspɜːt] *adj.* няўме́лы, некваліфікава́ны
**inexplicable** [ˌɪnɪkˈsplɪkəbl] *adj.* невытлумача́льны, незразуме́лы
**infallibility** [ɪnˌfæləˈbɪləti] *n.* **1.** беспамылкóвасць **2.** надзе́йнасць
**infallible** [ɪnˈfæləbl] *adj.* **1.** беспамылкóвы, бясхі́бны **2.** надзе́йны, пэ́ўны; **an infallible method** надзе́йны спóсаб; **an infallible proof** неабвéржны дóказ
**infamous** [ˈɪnfəməs] *adj. fml* няслáўны, бясслáўны, ганéбны
**infancy** [ˈɪnfənsi] *n.* дзяці́нства
**infant** [ˈɪnfənt] *n. fml* дзіця́, дзіцё, немаўля́; **infant mortality** дзіця́чая смярóтнасць
**infantile** [ˈɪnfəntaɪl] *adj.* **1.** дзіця́чы; **infantile paralysis** *med.* дзіця́чы пара́ліч **2.** *derog.* інфанты́льны; **an infantile mind** інфанты́льны рóзум
**infantilism** [ɪnˈfæntɪlɪzəm] *n. psychol.* інфантылі́зм
**infantry** [ˈɪnfəntri] *n.* пяхóта
**infatuation** [ɪnˌfætʃuˈeɪʃn] *n.* **(with) 1.** улюбёнасць **2.** ця́га
**infect** [ɪnˈfekt] *v.* **(with)** заража́ць (*чым-н.*)
**infection** [ɪnˈfekʃn] *n.* заражэ́нне
**infectious** [ɪnˈfekʃəs] *adj.* **1.** інфекцы́йны, зара́зны **2.** зара́злівы; **infectious laughter** зара́злівы смех
**infer** [ɪnˈfɜː] *v.* рабі́ць высно́ву; *From what did you infer that?* З чаго ты зрабіў гэтую выснову?
**inference** [ˈɪnfərəns] *n.* **1.** вы́вад, заключэ́нне, высно́ва **2.** вывядзе́нне
**inferior** [ɪnˈfɪəriə] *adj.* **(to)** дрэ́нны; гóршы (*якасцю*); ніжэ́йшы (*паводле становішча*); *The goods were of inferior quality.* Тавары былі дрэннай якасці.
**inferiority** [ɪnˌfɪəriˈɒrəti] *n.* нізкасóртнасць; непаўнацэ́ннасць; **an inferiority complex** кóмплекс непаўнацэ́ннасці/непаўнава́ртасці
**infernal** [ɪnˈfɜːnl] *adj. fml* пякéльны (*таксама перан.*)
**inferno** [ɪnˈfɜːnəʊ] *n. fml* пéкла
**infertile** [ɪnˈfɜːtaɪl] *adj.* **1.** неўрадлі́вы, неўраджа́йны (*пра зямлю*) **2.** *med.* стэры́льны, бясплóдны (*пра людзей, жывёл, расліны*)
**infest** [ɪnˈfest] *v.* **(with)** навадня́ць (*чым-н.*); кішэ́ць; *Mice infested the old house*. Мышы апанавалі стары дом; **a shark-infested sea** мóра, у які́м кіша́ць аку́лы
**infidelity** [ˌɪnfɪˈdeləti] *n.* **(to)** здра́да; здра́длівасць; нявéрнасць
**infighting** [ˈɪnfaɪtɪŋ] *n.* міжусóбіца, уну́траная барацьба́
**infiltrate**[1] [ˈɪnfɪltreɪt] *n. med.* інфільтра́т
**infiltrate**[2] [ˈɪnfɪltreɪt] *v.* **1.** прасóчвацца (*пра ваду*) **2.** пранікáць
**infiltration** [ˌɪnfɪlˈtreɪʃn] *n.* інфільтра́цыя, пранікнéнне (*у розных знач.*)
**infinite** [ˈɪnfɪnət] *adj.* бязмéжны, бяскóнцы; **infinite gratitude** бяскóнцая ўдзя́чнасць
**infinitesimal** [ˌɪnfɪnɪˈtesɪml] *adj. fml* бяскóнца малы́
**infinitive** [ɪnˈfɪnətɪv] *n. ling.* інфініты́ў, неазнача́льная фóрма дзеясло́ва
**infinity** [ɪnˈfɪnəti] *n.* **1.** бяскóнцасць; бязмéжнасць; бяскра́йнасць **2.** *math.* бесканéчнасць
**infirm** [ɪnˈfɜːm] *adj.* **1.** няду́жы, сла́бы; квóлы, ляда́шчы **2.** няцвёрды; **infirm of purpose** нерашу́чы
**infirmary** [ɪnˈfɜːməri] *n.* бальні́ца; амбулатóрыя
**infirmity** [ɪnˈfɜːməti] *n.* **1.** няду́жасць, сла́басць **2.** недамага́нне; хварóба
**infix** [ˈɪnfɪks] *n. ling.* і́нфікс
**inflame** [ɪnˈfleɪm] *v.* **1.** *med.* запаля́цца (*пра рану*); выклікáць запалéнне **2.** *fml* **(with)** узбуджа́ць, узру́шваць
**inflamed** [ɪnˈfleɪmd] *adj.* запалёны (*пра частку цела*); **an inflamed eye/throat** запалёнае вóка/ гóрла
**inflammable** [ɪnˈflæməbl] *adj.* які лёгка загара́ецца/узгара́ецца; *Petrol is highly inflammable.* Бензін лёгка ўспыхвае.
**inflammation** [ˌɪnfləˈmeɪʃn] *n. med.* запалéнне; **inflammation of the lungs** запалéнне лёгкіх
**inflate** [ɪnˈfleɪt] *v.* **1.** надзіма́ць (*паветрам або газам*) **2.** *econ.* узніма́ць (*цэны*)
**inflated** [ɪnˈfleɪtɪd] *adj.* **1.** празмéрна павялі́чаны (*пра цану*) **2.** пыхлі́вы, фанабэ́рысты, празмéрна ганары́сты; **inflated with pride** пыхлі́вы ад ва́жнасці; **inflated language** напы́шлівая мóва
**inflation** [ɪnˈfleɪʃn] *n.* **1.** *econ.* інфля́цыя **2.** надзіма́нне
**inflect** [ɪnˈflekt] *v. ling.* **1.** скланя́ць; спрага́ць **2.** дабаўля́ць/мяня́ць канча́так
**inflection, inflexion** [ɪnˈflekʃn] *n. ling.* **1.** змянéнне фóрмы слóва **2.** флéксія; канча́так (*слова*)
**inflexible** [ɪnˈfleksəbl] *adj.* **1.** нягі́бкі, нягну́ткі; **inflexible twigs** нягну́ткія галі́нкі; **an inflexi-**

**ble system** нягі́бкая сістэ́ма **2.** непахі́сны, няўмо́льны; **an inflexible will** непахі́сная во́ля

**inflict** [ɪnˈflɪkt] *v.* **(on/upon) 1.** нано́сіць (*удар, рану і да т.п.*) **2.** навя́зваць (*погляды*); навя́звацца, набіва́цца; *I don't wish to inflict myself on you.* Я не хачу набівацца да вас.

**infliction** [ɪnˈflɪkʃn] *n.* нанясе́нне (*удару*); прычыне́нне (*болю*)

**influence**[1] [ˈɪnflʊəns] *n.* **(over, on/upon, with)** уплы́ў, уздзе́янне; **under the influence of** пад уплы́вам; **a man of influence** уплыво́вая асо́ба

**influence**[2] [ˈɪnflʊəns] *v.* рабі́ць уплы́ў, уплыва́ць, уздзе́йнічаць (*на што-н., каго-н.*)

**influential** [ˌɪnflʊˈenʃl] *adj.* уплыво́вы; аўтарытэ́тны

**influenza** [ˌɪnfluˈenzə] *n. med. fml* грып

**influx** [ˈɪnflʌks] *n.* **(of)** прыто́к, пры́лі́ў, наплы́ў; **an influx of tourists** наплы́ў туры́стаў

**inform** [ɪnˈfɔːm] *v.* **(of/about)** паведамля́ць, інфармава́ць; **inform on smb.** дано́сіць на каго́-н.

**informal** [ɪnˈfɔːml] *adj.* **1.** нефарма́льны; неафіцы́йны **2.** про́сты; звыча́йны (*пра адзенне*) **3.** *ling.* размо́ўны (*пра слова, стыль*)

**informality** [ˌɪnfɔːˈmæləti] *n.* нязму́шанасць

**informant** [ɪnˈfɔːmənt] *n.* **1.** інфарма́тар **2.** інфарма́нт

**informatics** [ˌɪnfəˈmætɪks] *n. comput.* інфарма́тыка

**information** [ˌɪnfəˈmeɪʃn] *n.* **(on/about)** паведамле́нне, зве́сткі, інфарма́цыя; **an interesting piece of information** ціка́вая інфарма́цыя; **the information bureau** бюро́ даве́дак; **information science** *comput.* інфарма́тыка ♦ **for your information** *infml* да ва́шага ве́дама

**informative** [ɪnˈfɔːmətɪv] *adj.* інфарматы́ўны, змясто́ўны

**informed** [ɪnˈfɔːmd] *adj.* **(about)** дасве́дчаны

**informer** [ɪnˈfɔːmə] *n.* дано́счык; інфарма́тар

**infrared** [ˌɪnfrəˈred] *adj. phys.* інфрачырво́ны

**infrastructure** [ˈɪnfrəˌstrʌktʃə] *n.* інфраструктура

**infrequent** [ɪnˈfriːkwənt] *adj.* рэ́дкі, няча́сты

**infringe** [ɪnˈfrɪndʒ] *v.* **(on/upon)** паруша́ць (*закон, правы, правілы і да т.п.*)

**infringement** [ɪnˈfrɪndʒmənt] *n.* парушэ́нне (*закона, правоў, правіл і да т.п.*)

**infuriate** [ɪnˈfjʊərieɪt] *v.* прыво́дзіць у шале́нства/лю́тасць

**ingenious** [ɪnˈdʒiːniəs] *adj.* **1.** арыгіна́льны, адмысло́вы (*пра план, прыладу і да т.п.*) **2.** вынахо́длівы (*пра чалавека*)

**ingenuity** [ˌɪndʒəˈnjuːəti] *n.* вынахо́длівасць; адмысло́васць; арыгіна́льнасць

**ingenuous** [ɪnˈdʒenjuəs] *adj.* прастаду́шны; нях́ітры; наі́ўны, нявопытны

**ingot** [ˈɪŋgət] *n.* злі́так (*металу*)

**ingrained** [ɪnˈgreɪnd] *adj.* закарані́лы; **ingrained habits/prejudices** закарані́лыя звы́чкі/забабо́ны, пры́мхі

**ingratiate** [ɪnˈgreɪʃieɪt] *v.* паддо́брывацца, падлі́звацца (*да каго-н.*), запабяга́ць (*перад кім-н.*)

**ingratiating** [ɪnˈgreɪʃieɪtɪŋ] *adj.* няшчы́ры; падлі́злівы; **an ingratiating smile** ліслі́вая ўсме́шка

**ingratitude** [ɪnˈgrætɪtjuːd] *n.* няўдзя́чнасць

**ingredient** [ɪnˈgriːdiənt] *n.* інгрэдые́нт, састаўна́я ча́стка, кампане́нт

**inhabit** [ɪnˈhæbɪt] *v.* насяля́ць, жыць

**inhabitant** [ɪnˈhæbɪtənt] *n.* жыха́р, нас́ельнік

**inhale** [ɪnˈheɪl] *v.* удыха́ць

**inherent** [ɪnˈhɪərənt] *adj.* уласці́вы; прыро́джаны; неад'е́мны; **inherent rights** неад'е́мныя правы́; **inherent contradictions** уну́траныя супярэ́чнасці

**inherit** [ɪnˈherɪt] *v.* атры́мліваць у спа́дчыну, насле́даваць

**inheritable** [ɪnˈherɪtəbl] *adj. biol.* спа́дчынны

**inheritance** [ɪnˈherɪtəns] *n.* **1.** спа́дчына; **2.** *biol.* насле́даванне

**inheritor** [ɪnˈherɪtə] *n.* **(of)** насле́днік, спадкае́мца

**inhibit** [ɪnˈhɪbɪt] *v.* **1.** перашкаджа́ць; замiна́ць; стры́млiваць; *Tight clothing may inhibit breathing.* Цеснае адзенне можа перашкаджаць дыханню. **2.** ско́ўваць; *His presence inhibits me.* Яго прысутнасць скоўвае мяне.

**inhibited** [ɪnˈhɪbɪtɪd] *adj.* скава́ны, ско́ваны (*пра чалавека*)

**inhibition** [ˌɪnhɪˈbɪʃn] *n.* скава́насць; стры́млiванне пачу́ццяў

**inhospitable** [ˌɪnhɒˈspɪtəbl] *adj.* **(to/towards)** негасці́нны, няве́тлівы

**inhuman** [ɪnˈhjuːmən] *adj.* **1.** бесчалаве́чны, бязлі́тасны **2.** нечалаве́чы, нялю́дскі

**inhumane** [ˌɪnhjuːˈmeɪn] *adj.* негума́нны; лю́ты

**inhumanity** [ˌɪnhjuːˈmænəti] *n.* бесчалаве́чнасць

**initial**[1] [ɪˈnɪʃl] *n. звыч. pl.* **initials** ініцыя́лы

**initial**[2] [ɪˈnɪʃl] *adj.* (перша)пачатко́вы

**initial**[3] [ɪˈnɪʃl] *v.* **: initial a document** ста́віць ініцыя́лы пад дакуме́нтам

**initially** [ɪˈnɪʃəli] *adv.* упача́тку, напача́тку, спача́тку

**initiate** [ɪˈnɪʃieɪt] *v. fml* пачына́ць

**initiative** [ɪˈnɪʃətɪv] *n.* **1.** ініцыяты́ва; пачы́н; **on one's own initiative** па сваёй ініцыяты́ве **2. the initiative** знахо́длівасць, дасці́пнасць

**inject** [ɪnˈdʒekt] *v.* **(into, with) 1.** рабі́ць уко́л; упы́рскваць, уво́дзіць **2.** дадава́ць, прыўно́-

*Yes, it is on the table.* Ты бачыў мой гадзіннік? – Так, ён на стале; *I don't speak Belarusian but I understand it.* Я не размаўляю пабеларуску, але разумею; *The shed has no roof over it*. Хлеў без страхі. **2.** гэта; *It's me.* Гэта я; *Who is it?* Хто гэта?; *That's not it*. Гэта не тое. **3.** (*не перакладаецца*): *It's late/hot.* Позна/горача; *It's winter/summer.* Цяпер зіма/лета; *It's six o'clock.* Шэсць гадзін; *It is five miles to Oxford.* Да Оксфарда пяць міль; *It's raining/snowing***.** Ідзе дождж/снег; *It is said* (*that*)... Кажуць, што...; *It is hard to imagine.* Цяжка сабе ўявіць; *How goes it?* Як маецеся? **4.** (*ужываецца для эмфазы*)**:** *It is here that the trouble lies.* Вось у чым бяда; *It was John who said this.* Менавіта Джон сказаў гэта.

**Italian**[1] [ɪˈtæljən] *n.* **1.** італья́нец; італья́нка **2. the Italians** італья́нцы **3.** італья́нская мо́ва

**Italian**[2] [ɪˈtæljən] *adj.* італья́нскі

**Italic** [ɪˈtælɪk] *adj. ling.* рама́нскі

**italicize,** *BrE* **-ise** [ɪˈtælɪsaɪz] *v.* вылуча́ць курсі́вам

**italics** [ɪˈtælɪks] *n.* курсі́ў; **in italics** курсі́вам

**itch**[1] [ɪtʃ] *n.* **1.** сверб (*таксама перан.*) **2.** *infml* пра́га, нясце́рпнае жада́нне

**itch**[2] [ɪtʃ] *v.* **1.** свярбе́ць **2.** *infml* **(for)** пра́гнуць; карце́ць; *He is itching to travel.* У яго неадольнае жаданне вандраваць.

**itchy** [ˈɪtʃɪ] *adj.* свярблі́вы ♦ **get/have itchy feet** не сядзі́цца на адны́м ме́сцы

**it'd** [ˈɪtəd] *скар. ад* **1.** it had **2.** it would

**item** [ˈaɪtəm] *n.* **1.** прадме́т; **an item of furniture** прадме́т мэ́блі **2.** пункт; пара́граф; ну́мар (*у спісе, праграме і да т.п.*) **the items on the agenda** пу́нкты пара́дку дня **3.** паведамле́нне; **a news item** наві́на (*у газеце, на тэлебачанні і да т.п.*)

**itemize,** *BrE* **-ise** [ˈaɪtəmaɪz] *v.* пералі́чваць, пералічáць; склада́ць, скла́дваць; **an itemized account** падрабя́зныраху́нак

**iterate** [ˈɪtəreɪt] *v.* паўтара́ць; **iterate an accusation** паўто́рна абвінава́ціць

**itinerary** [aɪˈtɪnərəri] *n.* маршру́т, план падаро́жжа

**it'll** [ˈɪtl] *скар. ад* it will

**its** [ɪts] *pron.* яго́, яго́ны; яе́; свой (*звыч. пра жывёл, прадметы, рэчы*)

**it's** [ɪts] *скар. ад* **1.** it is **2.** it has

**itself** [ɪtˈself] *pron.* **1.** (*звыч. пра жывёл, прадметы, рэчы*) сябе́; (*таксама перадаецца зваротнымі дзеясловамі*); *There's no need for the team to feel proud of itself.* Камандзе няма чаго ганарыцца. **2.** сам; сама́; само́; *He is always politeness itself.* Ён заўсёды сама ветлівасць; **by/in itself** само́ па сабе́; *The door opened (all) by itself.* Дзверы самі адчыніліся; *The question is not very important by itself.* Пытанне само па сабе не вельмі важнае.

**ITV** [ˌaɪtiːˈviː] (*скар. ад* **Independent Television**) незале́жная (камерцы́йная) тэлевізі́йная кампа́нія

**IUD** [ˌaɪjuːˈdiː] *n.* (*скар. ад* **intrauterine device**) унутрыма́тачны супрацьзача́ткавы сро́дак

**I've** [aɪv] *скар. ад* I have

**IVF** [ˌaɪviːˈef] *n. med.* (*скар. ад* **in vitro fertilization,** *BrE* **-isation**) апладне́нне ў прабі́рцы

**ivory**[1] [ˈaɪvəri] *n.* **1.** слано́вая косць **2.** вы́раб са слано́вай ко́сці; **a priceless collection of ivories** бясцэ́нная кале́кцыя вы́рабаў са слано́вай ко́сці **3.** ко́лер слано́вай ко́сці

**ivory**[2] [ˈaɪvəri] *adj.* **1.** які́ вы́раблены са слано́вай ко́сці **2.** крэ́мавы, ко́леру слано́вай ко́сці; **ivory skin** ма́тавая ску́ра

**ivy** [ˈaɪvi] *n. bot.* плюшч

## Jj

**J, j** [dʒeɪ] *n. 10-я літара англійскага алфавіта*

**jab**[1] [dʒæb] *n.* **1.** штуршо́к, уда́р (*асабліва чым-н. вострым*); *He gave me a jab in the ribs*. Ён штурхнуў мяне локцем у бок. **2.** *med., infml* уко́л; прышчэ́пка; **a cholera jab** прышчэ́пка су́праць хале́ры **3.** каро́ткі прамы́ ўда́р па ко́рпусе (*у боксе*)

**jab**[2] [dʒæb] *v.* **1.** шту́рхаць, кало́ць **2. (at)** ты́каць; *She jabbed at the red button.* Яна націснула чырвоную кнопку.

**jabber** [ˈdʒæbə] *v. derog.* гавары́ць ху́тка, усхвалява́на і неразбо́рліва; балбата́ць

**jabot** [ˈdʒæbəʊ] *n.* жабо́

**jack** [dʒæk] *n.* **1.** *tech.* дамкра́т, пад'ёмнае прыстасава́нне **2.** *tech.* гнязд́о (*для падключэння электроннага абсталявання*) **3.** вале́т (*у картах*) ♦ **a jack of all trades** ≅ ма́йстар на ўсе ру́кі (*магчыма пры гэтым не вельмі спрактыкаваны, не вельмі ўмелы*)

**jack around** [ˌdʒækəˈraʊnd] *phr.v. AmE, infml* наўмы́сна перашкаджа́ць, не дапамага́ць у які́й-н. спра́ве

**jack in** [ˌdʒækˈɪn] *phr.v.* **1.** *BrE, infml* кіда́ць рабі́ць што-н., кіда́ць займа́цца чым-н.; *Last year she jacked in her job.* Летась яна кінула працу. **2.** *infml* падключы́цца да камп'ю́тарнай сістэ́мы; *I'm trying to jack in the Internet now.* Я зараз спрабую падключыцца да інтэрнэту.

**jack up** [ˌdʒækˈʌp] *phr.v.* **1.** падымáць (*дамкратам*) **2.** *infml* значна ўзнімáць, павялíчваць (*кошты, падаткі і да т.п.*) **3.** *infml* увóдзіць наркóтык у кроў

**jackal** [ˈdʒækl, ˈdʒækɔːl] *n.* шакáл

**jackass** [ˈdʒækæs] *n. infml* асёл, дýрань, ёлупень

**jackboot** [ˈdʒækbuːt] *n.* **1.** бот вышэй калéна; батфóрт **2. the jackboot** грýбы ціск, грýбая сíла, насíлле, «ковáны бот»

**jackdaw** [ˈdʒækdɔː] *n. zool.* гáлка

**jacket** [ˈdʒækɪt] *n.* **1.** пінжáк; жакéт; кýртка **2.** супервóкладка (*на кніжцы*) **3.** *tech.* абшыўка, кажýх, чахóл **4.** *AmE* канвéрт для грампласцíнкі, дыска **5.** *pl.* **jackets** *BrE* бульбяныя лупíны

**jacket potato** [ˌdʒækɪtpəˈteɪtəʊ] *n.* (*pl.* **jacket potatoes**) *BrE* пéчаная бýльба ў мундзíрах/лупíнах

**jackfish** [ˈdʒækfɪʃ] *n.* (*pl.* **jackfish**) *AmE, zool.* шчупáк (*асабліва малады*)

**jackfruit** [ˈdʒækfruːt] *n.* джэкфрут, усходнеіндыйскае хлéбнае дрэва

**jackhammer** [ˈdʒækˌhæmə] *n. AmE* адбóйны малатóк

**jack-in-the-box** [ˈdʒækɪnðəbɒks] *n.* цáцка-скрыначка, з якóй выскáквае фігýрка

**jackknife** [ˈdʒæknaɪf] *n.* (*pl.* **jackknives**) складны нож, сцізóрык

**jack-o'-lantern** [ˌdʒækəˈlæntən] *n.* ліхтáр з гарбузá (*з дзіркамі ў форме вачэй, носа і рота*)

**jackpot** [ˈdʒækpɒt] *n.* джэк-пóт, галóўны прыз (*у латарэі, ігральным аўтамаце і да т.п.*); банк (*у картачнай гульні*); **hit the jackpot** *infml* 1) забірáць усé стáўкі 2) дасягнýць велізáрнага пóспеху

**jackrabbit** [ˈdʒækˌræbɪt] *n. zool.* амерыкáнскі зáяц

**jackstraw** [ˈdʒækstrɔː] *n. AmE* бірýлькі (*гульня*)

**Jacobean** [ˌdʒækəˈbiːən] *adj. hist.* які мáе дачынéнне да праўлéння англíйскага караля Якава I (1603–1625)

**jacuzzi** [dʒəˈkuːzi] *n.* джакýзі

**jade¹** [dʒeɪd] *n.* **1.** *min.* жадэíт, гагáт **2.** *min.* нефрыт **3.** зялёны кóлер, кóлер нефрыту

**jade²** [dʒeɪd] *v.* **1.** заязджáць (*каня*); стамляць, змóрваць **2.** тупíць (*нож*) **3.** перанасычваць (*раствор*)

**jaded** [ˈdʒeɪdɪd] *adj.* той, якóму надакýчыла што-н.

**jag¹** [dʒæg] *n. infml* стан узбýджанасці абó ап'янéння ♦ **have a jag on** пад чáркай (*у стане ап'янення*)

**jag²** [dʒæg] *n.* **1.** вóстры выступ (*скалы*) **2.** нарэз, надрэз

**jag³** [dʒæg] *v.* **1.** рабíць нарэзы, засéчкі **2.** (і)рвáць абó рэзаць нярóўна

**jagged** [ˈdʒægɪd] *adj.* з нярóўным крáем, з зазýбінамі

**jaguar** [ˈdʒægjuə] *n. zool.* ягуáр

**jail¹** [dʒeɪl] *n.* турмá

**jail²** [dʒeɪl] *v.* саджáць у турмý, зявóльваць; *He was jailed for two years*. Яго пасадзілі ў турму на два гады.

**jailbait** [ˈdʒeɪlbeɪt] *n. infml* хлóпец-падлéтак абó дзяўчына-падлéтак (*сексуальная сувязь з якім або якой караецца законам*)

**jailbird** [ˈdʒeɪlbɜːd] *n. infml, dated* **1.** зявóлены, арыштáнт **2.** закаранéлы злачынца, рэцыдывíст

**jailbreak** [ˈdʒeɪlbreɪk] *n.* уцёкі з турмы (*асабліва пра некалькі чалавек*)

**jailer** [ˈdʒeɪlə] *n.* турэмшчык, турэмны наглядчык

**jailhouse** [ˈdʒeɪlhaʊs] *n. AmE* турмá

**Jain** [dʒeɪn] *n.* той, хто спавядáе джайнíзм

**Jainism** [ˈdʒeɪnɪzəm] *n.* джайнíзм (*адна з рэлігій у Індыі*)

**jam¹** [dʒæm] *n.* **1.** варэнне, джэм; **strawberry jam** варэнне з клубнíц **2.** затóр; **a traffic jam** дарóжны затóр ♦ **be in a jam** *infml* трáпіць у цяжкае абó няёмкае станóвішча, трáпіць у пераплёт; **jam tomorrow** *BrE, infml* пустыя абяцáнні

**jam²** [dʒæm] *v.* **1.** упíхваць, запíхваць, уцíскваць; *I can't jam another thing into the bag.* Я не магу больш нічога ўпіхнуць у сумку. **2.** заядáць (*пра часткі механізмаў*); *The lock has jammed, I can't open it.* Замок заела, я не магу яго адкрыць. **3.** біткóм набівáць, загрувáшчваць, запаўняць (*праход*); *People in the bus were jammed together like sardines in a can.* Людзей набілася ў аўтобус, як селядцоў у бочцы. **4.** зашчэмліваць, заціскáць; *I jammed my finger in the door.* Я прышчаміў палец дзвярыма. **5.** ствараць перашкóды, глушыць (*радыё і да т. п.*) ♦ **jam on the brake(s)** націскáць на тармазы

**jamb** [dʒæm] *n.* вушáк (*дзвярэй або акна*)

**jambalaya** [ˌdʒæmbəˈlaɪə] *n. AmE* джамбалáя (*плоў з вяндлінай, курыцай або вустрыцамі*)

**jamboree** [ˌdʒæmbəˈriː] *n.* вясёлая сустрэча, вечарынка

**jammed** [dʒæmd] *adj.* **1.** які не мóжа рýхацца; *I couldn't go out. I was jammed in the crowd of people.* Я не мог выйсці. Мяне заціснулі ў натоўпе. **2.** пóўны людзéй; *Nobody could get on, the bus was jammed.* Ніхто не змог сесці ў аўтобус, ён быў перапоўнены.

**jammy** [ˈdʒæmi] *adj. BrE, infml* уда́члівы
**jam-packed** [ˌdʒæmˈpækt] *adj. infml* **(with)** бітко́м набі́ты; *Her room was jam-packed with flowers and gifts.* Яе пакой быў бітком набіты кветкамі і падарункамі.
**Jan.** (*пісьмовае скар. ад* **January**) сту́дзень
**Jane Doe** [ˌdʒeɪnˈdəʊ] *n. AmE* Джэйн Доў, умо́ўнае іменава́нне асо́бы жано́чага по́лу, чыё імя́ невядо́мае або́ па тых ці і́ншых прычы́нах не называ́ецца
**jangle** [ˈdʒæŋgl] *v.* **1.** бразгата́ць, брынча́ць (*звыч. пра металічныя прадметы*); *Her bracelets jangled as she walked.* Яе бранзалеты бразгаталі пры хадзьбе. **2.** раздражня́ць, расстро́йваць, дзе́йнічаць на не́рвы; быць напру́жаным (*пра нервы*); *She couldn't sleep, her nerves jangling.* Яна не магла спаць, нервы былі напружаныя.
**janitor** [ˈdʒænɪtə] *n. AmE* вартаўні́к; дво́рнік; прыбіра́льшчык
**January** [ˈdʒænjuəri] *n.* сту́дзень; **in January** у сту́дзені
**Jap** [dʒæp] *n. slang, derog., taboo* япо́нец; япо́нка
**Japanese**[1] [ˌdʒæpəˈniːz] *n.* **1.** япо́нец; япо́нка; **the Japanese** япо́нцы **2.** япо́нская мо́ва
**Japanese**[2] [ˌdʒæpəˈniːz] *adj.* япо́нскі
**japonica** [dʒəˈpɒnɪkə] *n. bot.* айва́ япо́нская
**jar**[1] [dʒɑː] *n.* **1.** сло́ік; збан **2.** *BrE, infml* ку́халь/ку́фель пі́ва
**jar**[2] [dʒɑː] *n.* **1.** брынчэ́нне; бра́згат **2.** узрушэ́нне; непрые́мнае ўра́жанне
**jar**[3] [dʒɑː] *v.* **1. (on)** раздражня́ць; хвалява́ць; ашаламля́ць; *His voice jars on me.* Яго голас рэжа мне вуха. **2. (with)** дысгармані́раваць, не адпавяда́ць; *These colours jar.* Гэтыя колеры не гармануюць.
**jargon** [ˈdʒɑːgən] *n.* жарго́н; прафесі́йная мо́ва; **medical jargon** медыцы́нскі жарго́н
**jasmine** [ˈdʒæzmɪn] *n. bot.* язмі́н
**jaundice** [ˈdʒɔːndɪs] *n. med.* жаўту́ха
**jaunt** [dʒɔːnt] *n. dated or hum.* каро́ткае падаро́жжа (*дзеля забавы*)
**jauntily** [ˈdʒɔːntɪli] *adv.* **1.** бо́йка, жва́ва **2.** бестурбо́тна, бесклапо́тна
**jauntiness** [ˈdʒɔːntɪnəs] *n.* **1.** бо́йкасць, жва́васць **2.** бестурбо́тнасць, бесклапо́тнасць
**jaunty** [ˈdʒɔːnti] *adj.* **1.** бо́йкі, жва́вы **2.** бестурбо́тны, бесклапо́тны
**javelin** [ˈdʒævəlɪn] *n.* **1.** кап'ё **2. the javelin** кіда́нне кап'я́ (*як від спаборніцтва*)
**jaw**[1] [dʒɔː] *n.* **1.** скі́віца; **the top/upper jaw** ве́рхняя скі́віца; **the bottom/lower jaw** ні́жняя скі́віца **2.** падбаро́дак; *He's got a very determined jaw.* У яго вельмі рашучы падбародак. **3.** *pl.* **jaws** рот; па́шча **4.** *pl.* **jaws** *tech.* зацiскно́е прыстасава́нне; абцугі́ ♦ **in the jaws of death** у кіпцюра́х сме́рці; **smb.'s jaw dropped/fell/sagged** рот разя́віўся ад здзіўле́ння; **the jaws of a tunnel** ву́зкі ўвахо́д у тунэ́ль (*які выглядае небяспечным*)
**jaw**[2] [dʒɔː] *v. infml* до́ўга і шмат размаўля́ць (*часта неадабральна*)
**jawbone** [ˈdʒɔːbəʊn] *n. anat.* скі́вічная косць
**jawbreaker** [ˈdʒɔːˌbreɪkə] *n. AmE* цвёрдая караме́ль
**jay** [dʒeɪ] *n. zool.* со́йка
**jaywalk** [ˈdʒeɪwɔːk] *v.* перахо́дзіць ву́ліцу, паруша́ючы пра́вілы ру́ху
**jaywalker** [ˈdʒeɪˌwɔːkə] *n.* неасцяро́жны пешахо́д
**jaywalking** [ˈdʒeɪˌwɔːkɪŋ] *n.* неасцяро́жны перахо́д праз ву́ліцу
**jazz** [dʒæz] *n.* джаз ♦ **and all that jazz** *infml* і ўся така́я лухта́
**jazz up** [ˌdʒæzˈʌp] *phr.v. infml* **1.** ажыўля́ць, упрыго́жваць **2.** зрабі́ць апрацо́ўку музы́чнага тво́ра на больш сучасны лад
**jazzy** [ˈdʒæzi] *adj.* **1.** я́ркі, кі́дкі; ве́льмі суча́сны, мо́дны; **a jazzy tie** кі́дкі га́льштук **2.** у сты́лі джа́за
**jealous** [ˈdʒeləs] *adj.* **1.** раўні́вы; **a jealous husband/wife** раўні́вы муж/раўні́вая жо́нка **2. (of)** зайздро́сны, зайздро́слівы; *She was jealous of his wealth*. Яна зайздросціла яго багаццю. **3.** клапатлі́вы, дба́йны, руплі́вы; пі́льны, які стара́нна аберага́е што-н.; **be jealous of one's good reputation** стара́нна аберага́ць сваю рэпута́цыю
**jealously** [ˈdʒeləsli] *adv.* **1.** пі́льна; *This new technology is jealously guarded*. Гэтая новая тэхналогія пільна ахоўваецца. **2.** раўні́ва **3.** зайздро́сліва
**jealousy** [ˈdʒeləsi] *n.* **1.** рэ́ўнасць **2.** за́йздрасць
**jeans** [dʒiːnz] *n. pl.* джы́нсы
**jeep** [dʒiːp] *n.* джып
**jeer**[1] [dʒɪə] *n. звыч. pl.* **jeers** кпі́ны, насме́шка; глум, здзе́каванне
**jeer**[2] [dʒɪə] *v.* **(at)** кпіць, насміха́цца; глумі́цца, здзе́кавацца
**jehad** [dʒɪˈhɑːd] *n.* **= jihad**
**Jehovah** [dʒɪˈhəʊvə] *n. bibl.* Іего́ва; **Jehovah's Witnesses** іегаві́сты (*рэлігійная арганізацыя пратэстанцкага кірунку*)
**jejune** [dʒɪˈdʒuːn] *adj. fml* **1.** про́сты, наі́ўны **2.** нецікáвы, беззмясто́ўны (*пра прамову, гісторыю і да т.п.*)
**jell** [dʒel] *v.* **1.** добра працаваць разам; быць паспяховай групай (*пра дзвюх ці болей асоб*); *We just didn't jell as a group.* Мы проста не

змаглі стаць камандай. **2.** выкрышталізо́ўвацца; вызнача́цца (*пра думкі, планы, ідэі і да т. п.*) **3.** *tech.* цвярдзе́ць; застыва́ць

**jellied** [ˈdʒelid] *adj.* заліўны́; у жэле́ (*пра ежу*)

**jello** [ˈdʒeləʊ] *AmE* = **jelly 1.**

**jelly** [ˈdʒeli] *n.* **1.** *BrE* жэле́ **2.** джэм **3.** лёгкі пла́стыкавы пля́жны абу́так ♦ **be/feel like jelly** (*пра ногі*) слабе́ць (*з-за таго, што чалавек нервуецца*); *My legs* ***turned to jelly***. Ногі ў мяне сталі як быццам з ваты.

**jelly bean** [ˈdʒelibiːn] *n.* цуке́рка «жэле́йныя бабы́»

**jellyfish** [ˈdʒelifɪʃ] *n.* (*pl.* **jellyfish**) *zool.* меду́за

**jelly roll** [ˈdʒelirəʊl] *n. AmE* руле́т з джэ́мам

**jemmy** [ˈdʒemi] *n. BrE* каро́ткі ло́мік (*для ўзлому дзвярэй, акон і да т.п.*), «фо́мка»

**jeopardize,** *BrE* **-ise** [ˈdʒepədaɪz] *v. fml* ста́віць пад пагро́зу, падвярга́ць небяспе́цы (*што-н.*)

**jeopardy** [ˈdʒepədi] *n.* **: ♦ be in jeopardy** быць у небяспе́цы; *This action puts in jeopardy the whole project*. Гэтая акцыя ставіць пад пагрозу ўвесь праект.

**jeremiad** [ˌdʒerɪˈmaɪəd] *n. fml* бяско́нцыя ска́ргі

**jerk**[1] [dʒɜːk] *n.* **1.** рыво́к; штуршо́к; рэ́зкі рух; *The train moved off with a jerk*. Цягнік пачаў рэзка рухацца. **2.** *infml* ду́рань, нікчэ́мнасць **3.** су́тарга **4.** замарынава́нае мя́са

**jerk**[2] [dʒɜːk] *v.* **1.** рэ́зка ту́заць, штурха́ць, то́ргаць; выця́гваць, вырыва́ць; *She jerked her arm free.* Яна рыўком вызваліла сваю руку. **2.** ру́хацца рэ́зкімі штуршка́мі; **jerk to a halt/stop** рэ́зка затармазі́ць/спыні́цца

**jerk out** [ˌdʒɜːkˈaʊt] *phr.v.* гавары́ць адры́віста

**jerkily** [ˈdʒɜːkɪli] *adv.* штуршка́мі; рыўка́мі; адры́віста

**jerky** [ˈdʒɜːki] *adj.* **1.** рэ́зкі, пары́вісты; су́таргавы; **jerky movements** су́таргавыя ру́хі; **jerky speech** адры́вістая гаво́рка; *We had a jerky ride.* У дарозе нас моцна трэсла.

**Jerry** [ˈdʒeri] *n.* (*pl.* **Jerries**) *BrE, slang, derog., taboo* не́мец, фрыц

**jerry-built** [ˈdʒeribɪlt] *adj. dated* збудава́ны абыя́к (*пра дом*)

**jersey** [ˈdʒɜːzi] *n.* **1.** джэрсі́ (*мяккая шарсцяная або баваўняная тканіна*) **2.** пуло́вер, сві́тар **3. : a football jersey** футбо́лка

**jest**[1] [dʒest] *n. fml* жарт ♦ **in jest** жа́ртам, жарто́ўна

**jest**[2] [dʒest] *v.* **(about)** *fml* жартава́ць

**jester** [ˈdʒestə] *n.* бла́зан, бла́зен

**Jesuit** [ˈdʒezjuɪt] *n.* езуі́т

**Jesus** [ˈdʒiːzəs] *n.* (*таксама* **Jesus Christ)** Ісу́с Хрысто́с

**jet**[1] [dʒet] *n.* **1.** *min.* чо́рны буршты́н, гага́т **2.** бліску́чы чо́рны ко́лер

**jet**[2] [dʒet] *n.* **1.** рэакты́ўны самалёт **2.** струме́нь; **a jet of water** струме́нь вады́

**jet**[3] [dʒet] *v.* **1.** *infml* лята́ць на рэакты́ўным самалёце; *He spent a great deal of time jetting around the world*. Ён траціў шмат часу ў палётах па ўсім свеце. **2.** біць струме́нем (*пра вадкасць або газ*)

**jet black** [ˌdʒetˈblæk] *adj.* чо́рны як смоль; **jet-black hair** чо́рныя як смоль валасы́

**jet engine** [ˌdʒetˈendʒɪn] *n.* рэакты́ўны рухаві́к

**jetfoil** [ˈdʒetfɔɪl] *n.* су́дна на падво́дных кры́лах з рэакты́ўным рухаві́ком

**jet lag** [ˈdʒetlæg] *n.* парушэ́нне біяры́тмаў аргані́зма, адчува́нне сто́мленасці ў вы́ніку до́ўгага пералёту на рэакты́ўным самалёце

**jetliner** [ˈdʒetˌlaɪnə] *n.* рэакты́ўны самалёт, ла́йнер

**jet-propelled** [ˌdʒetprəˈpeld] *adj.* з рэакты́ўным рухавіко́м

**jet propulsion** [ˌdʒetprəˈpʌlʃn] *n.* рэакты́ўны рух

**jet set** [ˈdʒetset] *n.* ♦ **the jet set** «рэакты́ўная пу́бліка», ву́зкае ко́ла бага́тых падаро́жнікаў (*якія лятаюць на рэактыўных самалётах на фешэнебельныя курорты і да т.п.*); вы́браныя, элі́та

**jettison** [ˈdʒetɪsn] *v.* **1.** адмаўля́цца (*ад планаў, думак і да т.п.*) **2.** пазбаўля́цца; выкі́дваць

**jetty** [ˈdʒeti] *n.* пры́стань, пірс

**Jew** [dʒuː] *n.* яўрэ́й; яўрэ́йка; **the Jews** яўрэ́і

**jewel** [ˈdʒuːəl] *n.* **1.** кашто́ўны ка́мень **2.** кашто́ўнасць ♦ **the jewel in the crown** што-н. як са́мая ле́пшая або́ найбо́льш кашто́ўная рэч; *His new book is the jewel in his crown*. Яго новая кніга – найлепшая з напісаных ім.

**jeweled** [ˈdʒuːəld] *AmE* = **jewelled**

**jewelled** [ˈdʒuːəld] *adj.* упрыго́жаны кашто́ўнасцямі

**jeweler** [ˈdʒuːələ] *AmE* = **jeweller**

**jeweller** [ˈdʒuːələ] *n.* ювелі́р

**jewellery** [ˈdʒuːəlri] *n.* ювелі́рныя вы́рабы, кашто́ўнасці

**jewelry** [ˈdʒuːəlri] *AmE* = **jewellery**

**Jewess** [ˈdʒuːɪs] *n.* яўрэ́йка (*часта пагарджальна*)

**Jewish** [ˈdʒuːɪʃ] *adj.* яўрэ́йскі; *Her husband is Jewish.* Яе муж яўрэй.

**Jewry** [ˈdʒʊəri] *n. fml* яўрэ́і

**jib** [dʒɪb] *n.* клі́вер (*трохвугольны касы парус у пярэдняй частцы судна*)

**jibe**[1] [dʒaɪb] *n. infml* насме́шка, кпі́ны, шпі́лькі

**jibe**[2] [dʒaɪb] *v.* **1. (at)** насміха́цца, кпіць; *She always jibes at the errors he makes in speech.*

Яна пастаянна насміхаецца з памылак, якія ён робіць, калі гаворыць. **2.** *AmE, infml* **(with)** супада́ць, адпавяда́ць; *Our opinions jibe.* Нашы погляды абсалютна супадаюць.

**jiffy** [ˈdʒɪfi] *n. infml* міг, мо́мант; **in a jiffy** мі́гам, у мо́мант

**Jiffy bag** [ˈdʒɪfiˌbæg] *n.* **1.** *BrE* вялі́кі мя́ккі канве́рт для перасы́лкі рэ́чаў, якія мо́гуць пабі́цца або́ быць пашко́джанымі **2.** пла́стыкавы паке́т для ўпако́ўкі рэ́чаў (*асабліва ежы*)

**jig**[1] [dʒɪg] *n.* джы́га (*хуткі танец*)

**jig**[2] [dʒɪg] *v.* ру́хацца штуршка́мі; **jig up and down** 1) падско́кваць; скака́ць 2) падкі́дваць (*што-н.*)

**jigger** [ˈdʒɪgə] *n. entomol.* пясча́ная блыха́

**jiggered** [ˈdʒɪgəd] *adj.* **: ♦ I'll be jiggered!** *BrE, infml, dated* чорт пабяры́! (*ужываецца для перадачы здзіўлення*)

**jigsaw** [ˈdʒɪgsɔː] *n.* (*таксама* **jigsaw puzzle**) састаўны́ малю́нак-зага́дка (*гульня, у якой малюнак складаецца з мноства маленькіх частак*)

**jihad** [dʒɪˈhɑːd] *n.* джыха́д, газава́т

**jilt** [dʒɪlt] *v.* пакіда́ць, кі́даць (*каханага або каханую*); *She has jilted him.* Яна яго кінула.

**jimmy** [ˈdʒɪmi] *AmE* = **jemmy**

**jingle**[1] [ˈdʒɪŋgl] *n.* **1.** звон, перазво́н **2.** каро́ткая рэкла́мная пе́сенька

**jingle**[2] [ˈdʒɪŋgl] *v.* звіне́ць (*пра металічныя рэчы*)

**jinx** [dʒɪŋks] *n.* **(on)** то́е, што прыно́сіць праклён; *There is a jinx on my car*. На маёй машыне нібыта праклён ляжыць.

**jitters** [ˈdʒɪtəz] *n. pl. infml* хвалява́нне, нерво́вае ўзбуджэ́нне; **get the jitters** нервава́цца

**jittery** [ˈdʒɪtəri] *adj. infml* нерво́вы, нерво́зны; *She is very jittery.* Яна вельмі нервуецца.

**jive** [ˈdʒaɪv] *n.* **1.** джайв (*хуткі танец*) **2.** *AmE* вы́думка; пуста́я балбатня́

**Jnr** *BrE* (*пісьмовае скар. ад* **junior**) мало́дшы (*ужываецца пасля прозвішча мужчыны, калі яго поўнае імя супадае з іменем яго бацькі*); **John Bright Jnr** Джон Брайт мало́дшы

**job** [dʒɒb] *n.* **1.** пра́ца, рабо́та, слу́жба; **a part-time job** рабо́та на працягу́ то́лькі ча́сткі працо́ўнага дня або́ ты́дня; **a temporary/permanent job** часо́вая/пастая́нная рабо́та; **be out of a job** быць беспрацо́ўным; **change jobs** мяня́ць ме́сца пра́цы; **get/find a job** атрыма́ць/знайсці́ рабо́ту; **lose a job** стра́ціць рабо́ту **2.** апера́цыя (*на камп'ютары*) ♦ **just the job** *BrE, infml* якра́з то́е, што патрэ́бна; *The computer we got is just the job!* Камп'ютар, што мы атрымалі, якраз тое, што патрэбна!

**job centre** [ˈdʒɒbˌsentə] *n. BrE* бюро́ па працаўладкава́нні

**jobless** [ˈdʒɒbləs] *adj.* беспрацо́ўны

**job lot** [ˌdʒɒbˈlɒt] *n.* разро́зненыя рэ́чы, які́я прадаю́цца/купля́юцца за бясцэ́нак

**jockey** [ˈdʒɒki] *n.* жаке́й

**jocular** [ˈdʒɒkjələ] *adj. fml* жартаўлі́вы, заба́ўны, вясёлы, камі́чны; **a jocular remark** жартаўлі́вая заўва́га; **a jocular reply** жартаўлі́вы адка́з

**jocularly** [ˈdʒɒkjələli] *adv.* жартаўлі́ва, жа́ртам, ве́села

**jodhpurs** [ˈdʒɒdpəz] *n. pl.* штаны́ для верхаво́й язды́, бры́джы

**jog**[1] [dʒɒg] *n.* **1.** бег трушко́м; **go for a jog** бе́гаць трушко́м **2.** штуршо́к

**jog**[2] [dʒɒg] *v.* **1.** бе́гаць трушко́м **2.** злёгку штурхну́ць ♦ **jog smb.'s memory** напо́мніць, нагада́ць; *Perhaps this photo will help to jog your memory.* Магчыма, гэтае фота паможа вам успомніць.

**jog along** [ˌdʒɒgəˈlɒŋ] *phr.v. BrE, infml* цягну́цца (*без зменаў*, *прагрэсу*)

**jogger** [ˈdʒɒgə] *n.* бягу́н трушко́м

**john** [dʒɒn] *n. infml* прыбіра́льня, туале́т

**joie de vivre** [ˌʒwɑːdəˈviːvrə] *n. франц.* ра́дасць жыцця́

**join**[1] [dʒɔɪn] *n.* стык; шво; злучэ́нне; *The join couldn't be seen.* Стыку не было відаць.

**join**[2] [dʒɔɪn] *v.* **1.** злуча́ць, звя́зваць **2.** уступа́ць (*у партыю, арганізацыю і да т.п.*); **join the army** пайсці́ ў а́рмію/во́йска **3.** далуча́цца; *May I join you?* Магу я да вас далучыцца?

**join in** [ˌdʒɔɪnˈɪn] *phr.v.* прыня́ць удзе́л у чым-н., далучы́цца да чаго́-н.; *She listens but she never joins in.* Яна слухае, але ніколі не далучаецца.

**join up** [ˌdʒɔɪnˈʌp] *phr.v.* **1.** *BrE* пайсці́ ў а́рмію/во́йска **2. (with)** згуртава́цца ра́зам для яко́й-н. спра́вы

**joiner** [ˈdʒɔɪnə] *n. BrE* цясля́р, це́сля, сталя́р

**joinery** [ˈdʒɔɪnəri] *n. BrE* цясля́рская спра́ва (рамяство́), цясля́рства

**joint**[1] [dʒɔɪnt] *n.* **1.** *anat.* суста́ў; *My joints ache.* У мяне ламата ў суставах. **2.** *BrE* вя́лікі кава́лак мя́са для прыгатава́ння (*звычайна з косткай*) **3.** стык; шво; *The pipe is leaking at the joint.* Труба цячэ на стыку. **4.** *infml* шыно́к, піўну́шка **5.** *infml* цыгарэ́та з марыхуа́най ♦ **out of joint** 1) вы́віхнуты (*пра сустаў*) 2) не ў пара́дку

**joint²** [dʒɔɪnt] *adj.* агу́льны, суме́сны; супо́льны; аб'ядна́ны; **a joint venture** суме́снае прадпрые́мства; **joint efforts** суме́сныя намага́нні

**jointly** [ˈdʒɔɪntli] *adv.* суме́сна

**joist** [dʒɔɪst] *n.* брус; бэ́лька, кро́ква

**joke¹** [dʒəʊk] *n.* жарт; анекдо́т; **crack/make a joke** сказа́ць што-н. сме́шнае; **(not) get the joke** (не) зразуме́ць жарт; **play a joke on smb.** (па)жартава́ць з каго́-н. ♦ **go/get beyond a joke** станаві́цца сур'ёзным, трыво́жным

**joke²** [dʒəʊk] *v.* жартава́ць; *You are joking!/You must be joking!* Ты, мусіць, жартуеш! ♦ **joking apart/aside** *BrE* жа́рты ўбок, без жа́ртаў

**joker** [ˈdʒəʊkə] *n.* **1.** жартаўні́к **2.** джо́кер (*у картах*) ♦ **the joker in the pack** непрадказа́льны (*пра каго-н. або што-н.*)

**jok(e)y** [ˈdʒəʊki] *adj. infml* жарто́ўны, несур'ёзны

**jokingly** [ˈdʒəʊkɪŋli] *adv.* жарто́ўна, жа́ртам

**jolly¹** [ˈdʒɒli] *adj.* вясёлы, ра́дасны; прые́мны; *They had a very jolly time*. Яны добра павесяліліся.

**jolly²** [ˈdʒɒli] *adv. BrE, infml* ве́льмі, надзвы́чай; *It was jolly hard work*. Гэта была вельмі цяжкая работа. ♦ **jolly well** *BrE, infml* (*эмфатычны выраз*) **:** *I wish you'd jolly well hurry up*. Ты не мог бы паспяшацца?

**jolt¹** [dʒəʊlt] *n.* **1.** штуршо́к **2.** уда́р, шок; *I realized with a jolt that they had left me alone.* Мяне як токам ударыла, калі я зразумеў, што мяне пакінулі аднаго.

**jolt²** [dʒəʊlt] *v.* **1.** падкі́дваць; трэ́сці; трэ́сціся **2.** узру́шваць, ура́жваць, шакі́раваць

**Jordanian¹** [dʒɔːˈdeɪniən] *n.* іарда́нец; іарда́нка; **the Jordanians** іарда́нцы

**Jordanian²** [dʒɔːˈdeɪniən] *adj.* іарда́нскі

**jostle** [ˈdʒɒsl] *v.* **1.** шту́рхаць; шту́рхацца (*пра людзей*); *We were jostled by the crowd.* Нас заштурхалі ў натоўпе.

**jostle for** [ˌdʒɒslˈfɔː] *phr.v.* сапе́рнічаць

**jot¹** [dʒɒt] *n.* ёта; **not a jot/not one jot** ні на ёту, ні кро́пелькі; *It matters not a jot*. Гэта не мае (а)ніякага значэння.

**jot²** [dʒɒt] *v.* **(down)** ху́тка занато́ўваць/запі́сваць; рабі́ць каро́ткі за́піс; *Listen to the instructions and jot them down*. Выслухайце ўказанні і занатуйце іх.

**jotter** [ˈdʒɒtə] *n. BrE* блакно́т, ната́тнік

**jottings** [ˈdʒɒtɪŋz] *n. pl. infml* занато́ўкі

**journal** [ˈdʒɜːnl] *n.* **1.** часо́піс (*навуковы, прафесійны і да т. п.*); **2.** газе́та **3.** дзённік

**journalism** [ˈdʒɜːnəlɪzəm] *n.* журналі́стыка

**journalist** [ˈdʒɜːnəlɪst] *n.* журналі́ст; журналі́стка

**journalistic** [ˌdʒɜːnəˈlɪstɪk] *adj.* журналі́сцкі

**journey¹** [ˈdʒɜːni] *n.* пае́здка; падаро́жжа; **a journey across Europe** падаро́жжа праз Еўро́пу; *A journey to Oxford by bus will take you 20 minutes.* Паездка ў Оксфард аўтобусам зойме ў вас 20 хвілін.

**journey²** [ˈdʒɜːni] *v. lit.* падаро́жнічаць, вандрава́ць

**joust** [dʒaʊst] *v.* **1.** *hist.* бі́цца на паядзі́нку **2.** *fml* сапе́рнічаць

**jovial** [ˈdʒəʊviəl] *adj.* дружалю́бны; вясёлы; жыццяра́дасны; **a jovial smile** дружалю́бная ўсме́шка; *Grandma was kind and jovial.* Бабуля была добрай і жыццярадаснай.

**jovially** [ˈdʒəʊviəli] *adv.* ве́села, дружалю́бна

**joy** [dʒɔɪ] *n.* **1.** ра́дасць; асало́да; **jump for/with joy** скака́ць ад ра́дасці **2. : no joy** *BrE, infml* не шанцу́е; дарэ́мна; *I tried to get in touch with him but I didn't have any joy.* Я спрабаваў звязацца з ім, але дарэмна.

**joyful** [ˈdʒɔɪfəl] *adj.* ра́дасны; **joyful news** ра́дасная ве́стка/навіна́

**joyfully** [ˈdʒɔɪfəli] *adv.* ра́дасна

**joyless** [ˈdʒɔɪləs] *adj. fml* бязра́дасны, невясёлы

**joylessness** [ˈdʒɔɪləsnəs] *n.* бязра́даснасць; журба́, марко́та, туга́, сум

**joyous** [ˈdʒɔɪəs] *adj. lit.* ве́льмі ра́дасны, шчаслі́вы

**joyously** [ˈdʒɔɪəsli] *adv.* ра́дасна, шчаслі́ва

**joyriding** [ˈdʒɔɪˌraɪdɪŋ] *n.* ху́ткая і небяспе́чная язда́ на скра́дзенай машы́не

**joystick** [ˈdʒɔɪstɪk] *n. comput.* джо́йстык

**JP** [ˌdʒeɪˈpiː] *n.* (*скар. ад* **justice of the peace**) міравы́ суддзя́

**Jr** *BrE* = **Jnr**

**jubilant** [ˈdʒuːbɪlənt] *adj.* по́ўны бу́рнай ра́дасці/весяло́сці

**jubilation** [ˌdʒuːbɪˈleɪʃn] *n. fml* бу́рная ра́дасць/весяло́сць; трыумфава́нне

**jubilee** [ˈdʒuːbɪliː] *n.* юбіле́й

**Judaism** [ˈdʒuːdeɪɪzəm] *n.* іудаі́зм

**Judas** [ˈdʒuːdəz] *n.* **1.** *bibl.* Юда **2.** здра́днік

**judge¹** [dʒʌdʒ] *n.* **1.** суддзя́ **2.** зна́ўца; *I'm no judge of poetry*. Я не бяруся разважаць пра паэзію.

**judge²** [dʒʌdʒ] *v.* **1.** меркава́ць, лічы́ць; **judging by/from** мярку́ючы па; **judging by what you say...** мярку́ючы па ва́шых сло́вах...; **as far as I can judge** нако́лькі я магу́ меркава́ць **2.** судзі́ць, выно́сіць рашэ́нне

**judgement** [ˈdʒʌdʒmənt] *n.* (*таксама* **judgment**) **1.** меркава́нне, по́гляд; **in my judgement** на

маю́ ду́мку **2.** разва́жнасць, разва́жлівасць; **a man of sound/good judgement** разва́жлівы чалаве́к

**judgemental** [dʒʌdʒˈmentl] *adj.* (*таксама* **judgmental**) крыты́чна настро́ены

**Judgement Day** [ˈdʒʌdʒməntˌdeɪ] *n. relig.* (*таксама* **the Day of Judgement**) су́дны дзень, дзень Стра́шнага суда́

**judicial** [dʒuːˈdɪʃl] *adj.* **1.** судо́вы; **the judicial system** судо́вая сістэ́ма **2.** судзе́йскі **3.** разва́жлівы

**judicially** [dʒuːˈdɪʃəli] *adv.* юрыды́чна; у судо́вым пара́дку

**judiciary** [dʒuːˈdɪʃəri] *n. fml* **1.** судо́вая ўла́да; сістэ́ма судо́вых о́рганаў **2.** су́ддзі

**judicious** [dʒuːˈdɪʃəs] *adj. fml* разу́мны, праду́маны, разва́жлівы, памярко́ўны

**judiciously** [dʒuːˈdɪʃəsli] *adv.* разва́жліва, праду́мана

**judo** [ˈdʒuːdəʊ] *n. sport* дзюдо́

**jug** [dʒʌg] *n.* збан

**juggernaut** [ˈdʒʌgənɔːt] *n.* **1.** *BrE* ве́льмі вялі́кі грузаві́к (*які возіць грузы на вялікія адлегласці*), фу́ра **2.** магу́тная сі́ла, яка́я разбура́е ўсё на сваі́м шляху́

**juggle** [ˈdʒʌgl] *v.* **1.** **(with)** жанглі́раваць **2.** сумяшча́ць **3.** падрабля́ць; ашу́кваць

**juggler** [ˈdʒʌglə] *n.* **1.** жанглёр **2.** махля́р, ашука́нец

**juice¹** [dʒuːs] *n.* сок; **orange juice** апельсі́навы сок; **gastric juice** стра́ўнікавы сок

**juice²** [dʒuːs] *v.* выціска́ць сок з агаро́дніны або́ садаві́ны; *Juice two oranges.* Выцісні сок з двух апельсінаў.

**juice up** [ˌdʒuːsˈʌp] *phr.v. AmE, infml* надава́ць піка́нтнасці

**juicy** [ˈdʒuːsi] *adj.* **1.** сакаві́ты, со́чны **2.** *infml* піка́нтны; **juicy stories/gossip/details** піка́нтныя гісто́рыі/плёткі/дэта́лі

**jukebox** [ˈdʒuːkbɒks] *n.* прайграва́льнік-аўтама́т

**Jul.** (*пісьмовае скар. ад* **July**) лі́пень

**July** [dʒʊˈlaɪ] *n.* лі́пень; **in July** у лі́пені

**jumble¹** [ˈdʒʌmbl] *n.* **(of)** **1.** ку́ча, гру́да **2.** блытані́на, мешані́на; **a jumble of thoughts and feelings** блытані́на ду́мак і пачу́ццяў **3.** *BrE* стары́я або́ непатрэ́бныя рэ́чы (*якія збіраюць для бедных*)

**jumble²** [ˈdʒʌmbl] *v.* зме́шваць; зме́швацца; пераме́шваць; пераме́швацца

**jumble sale** [ˈdʒʌmblˌseɪl] *n. BrE* про́даж ужыва́ных рэ́чаў (*звычайна з мэтай дапамогі мясцовай школе, царкве і да т. п.*)

**jumbo¹** [ˈdʒʌmbəʊ] *n. pl.* **jambos** (*таксама* **jambo jet**) аэро́бус, вялі́зны самалёт

**jumbo²** [ˈdʒʌmbəʊ] *adj.* велізա́рны (*ужываецца ў асноўным у рэкламе*)

**jump¹** [dʒʌmp] *n.* скачо́к; **at a jump** адны́м скачко́м; **the high/long jump** скачо́к у вышыню́/у даўжыню́

**jump²** [dʒʌmp] *v.* **1.** скака́ць **2.** падско́чыць (*таксама перан.*); *The number of crimes jumped by 10%.* Колькасць злачынстваў падскочыла на 10 працэнтаў. **3.** (*таксама* **jump on**) *infml* нечака́на напа́сці; *Somebody jumped on him in the park last night.* Нехта напаў на яго ў парку ўчора ўвечары. **4.** **: jump at an offer/chance** ухапі́цца за прапано́ву/магчы́масць

**jumper** [ˈdʒʌmpə] *n.* **1.** *BrE* джэ́мпер, сві́тар **2.** *AmE* сарафа́н (*які надзяваюць на блузку*) **3.** *sport* скаку́н

**jumpiness** [ˈdʒʌmpɪnəs] *n.* нерво́вы стан, нерво́васць

**jumpy** [ˈdʒʌmpi] *adj.* нерво́вы; **feel jumpy** нервава́цца

**junction** [ˈdʒʌŋkʃn] *n.* **1.** скрыжава́нне даро́г **2.** чыгу́начны ву́зел

**juncture** [ˈdʒʌŋktʃə] *n.* **(at)** пэ́ўнае стано́вішча або́ пэ́ўны час/мо́мант; **at this juncture** у гэ́ты мо́мант

**Jun.** (*пісьмовае скар. ад* **June**) чэ́рвень

**June** [dʒuːn] *n.* чэ́рвень; **in June** у чэ́рвені

**jungle** [ˈdʒʌŋgl] *n.* **1.** джу́нглі; **the law of the jungle** зако́н джу́нгляў **2.** блытані́на, неразбяры́ха

**junior¹** [ˈdʒuːniə] *n.* **1.** *sport* юніёр **2.** *AmE, infml* мало́дшы сын ♦ *Her husband* ***is 5 years her junior***. Яе муж на 5 гадоў маладзейшы за яе.

**junior²** [ˈdʒuːniə] *adj.* мало́дшы (*па ўзросце або пасадзе*); **a junior team** юна́цкая кама́нда, кама́нда юніёраў

**junk** [dʒʌŋk] *n.* **1.** хлам, стары́зна, рыззё; уты́ль **2.** **= junk food**

**junket** [ˈdʒʌŋkɪt] *n. infml, derog.* паездка або́ візі́т чыно́ўніка за дзяржа́ўны кошт

**junk food** [ˈdʒʌŋkfuːd] *n. infml* е́жа, яку́ю мо́жна лёгка і ху́тка прыгатава́ць, але́ дрэ́нная для здаро́ўя

**junkie, junky** [ˈdʒʌŋki] *n.* **1.** *infml* наркама́н **2.** *joc.* той, хто захапля́ецца і тра́ціць шмат ча́су на які́-н. несур'ёзны заня́так

**juniper** [ˈdʒuːnɪpə] *n.* ядло́вец

**junta** [ˈdʒʌntə] *n. derog.* ху́нта

**Jupiter** [ˈdʒuːpɪtə] *n. astron.* Юпі́тэр

**jurisdiction** [ˌdʒʊərɪsˈdɪkʃn] *n. fml* юрысды́кцыя; *It is within/outside the court's jurisdiction.* Гэта ўваходзіць/не ўваходзіць у юрысдыкцыю суда.

**jurisprudence** [ˌdʒʊərɪsˈpruːdns] *n. fml* юрыспрудэ́нцыя

**jurist** [ˈdʒʊərɪst] *n. fml* юры́ст; зна́ўца зако́наў

**juror** [ˈdʒʊərə] *n.* **1.** член суда́ прыся́жных **2.** член журы́

**jury** [ˈdʒʊəri] *n.* **1.** *law* суд прыся́жных **2.** *sport* судзе́йская кале́гія **3.** журы́

**juryman** [ˈdʒʊərimən] *n.* (*pl.* **-men**) мужчы́на – член суда́ прыся́жных, судзе́йскай кале́гіі або́ журы́

**jurywoman** [ˈdʒʊəriwʊmən] *n.* (*pl.* **-women**) жанчы́на – член суда́ прыся́жных, журы́ або́ судзе́йскай кале́гіі

**just¹** [dʒʌst] *adj.* справядлі́вы; **a just society** справядлі́вае грама́дства; **a just sentence** справядлі́вы прысу́д

**just²** [dʒʌst] *adv.* **1.** менаві́та, якра́з, акура́т, дакла́дна; **just at that spot** менаві́та на гэ́тым ме́сцы; **just in time** якра́з своечасо́ва; **just the thing** *infml* якра́з то́е, што трэ́ба; *That's just what we need.* Гэта якраз тое, што нам трэба. **2.** то́лькі што; *He's just come.* Ён толькі што прыйшоў. **3.** то́лькі; про́ста; **just the same** усё ро́ўна, тым не менш; **just think/listen/look** то́лькі паду́май/паслу́хай/паглядзі́; *He's just a child.* Ён толькі дзіця. ♦ **just now** *infml* 1) то́лькі што 2) *BrE* за́раз, цяпе́р; *We are busy just now, could you come later?* Мы занятыя зараз, прыходзьце, калі ласка, пазней; **just so** *BrE, infml* (дакла́дна) так; *They have nice kids. – Just so.* У іх слаўныя дзеткі. – Менавіта так; **just then** якра́з тады́/у той мо́мант

**justice** [ˈdʒʌstɪs] *n.* **1.** справядлі́васць **2.** правасу́ддзе, юсты́цыя; **bring smb. to justice** аддáць каго́-н. пад суд **3.** *BrE* суддзя́ (*ужываецца перад прозвішчам*) ♦ **do smb./smth. justice** ацані́ць нале́жным чы́нам; *To do her justice, she is really very beautiful.* Трэба прызнаць, яна сапраўды вельмі прыгожая.

**Justice of the Peace** [ˌdʒʌstɪsəvðəˈpiːs] *n.* мі́равы́ суддзя́

**justifiable** [ˈdʒʌstɪfaɪəbl] *adj.* зако́нны; дарава́льны; які́ мо́жа быць апраўда́ны; **justifiable claims** зако́нныя патрабава́нні

**justifiably** [ˈdʒʌstɪfaɪəbli] *adv.* зако́нна, апраўда́на

**justification** [ˌdʒʌstɪfɪˈkeɪʃn] *n.* **(for)** апраўда́нне, до́вад

**justify** [ˈdʒʌstɪfaɪ] *v.* **1.** апра́ўдваць **2.** абгрунто́ўваць ♦ **the end justifies the means** мэ́та апра́ўдвае сро́дкі

**justly** [ˈdʒʌstli] *adv.* справядлі́ва

**jut** [dʒʌt] *v.* (*таксама* **jut out**) **(from, into, over)** выдава́цца, выступа́ць (*уперад*), вытырка́цца

**jute** [dʒuːt] *n.* джут

**juvenile¹** [ˈdʒuːvənaɪl] *n. fml* юна́к, падле́так, непаўнале́тні

**juvenile²** [ˈdʒuːvənaɪl] *adj.* **1.** *law* непаўнале́тні, падле́ткавы; *Juvenile crime is increasing.* Расце злачыннасць сярод падлеткаў. **2.** дзіця́чы, няста́лы; дурны́

**juvenile court** [ˌdʒuːvənaɪlˈkɔːt] *n.* суд, які́ разбіра́е спра́вы непаўнале́тніх злачы́нцаў

**juvenile delinquency** [ˌdʒuːvənaɪldɪˈlɪŋkwənsi] *n.* злачы́ннасць сяро́д падле́ткаў

**juxtapose** [ˌdʒʌkstəˈpəʊz] *v. fml* супастаўля́ць, проціпастаўля́ць

**juxtaposition** [ˌdʒʌkstəpəˈzɪʃn] *n. fml* супастаўле́нне, проціпастаўле́нне

## Kk

**K, k** [keɪ] *n. 11-я літара англійскага алфавіта*

**kaleidoscope** [kəˈlaɪdəskəʊp] *n.* калейдаско́п

**kaleidoscopic** [kəˌlaɪdəˈskɒpɪk] *adj.* калейдаскапі́чны

**kangaroo** [ˌkæŋgəˈruː] *n.* кенгуру́

**karate** [kəˈrɑːti] *n. sport* каратэ́

**kayak** [ˈkaɪæk] *n.* кая́к; ло́дка

**KB** (*пісьмовае скар. ад* **kilobyte**) *comput.* кілаба́йт

**keel** [kiːl] *n.* кіль ♦ **on an even keel** ро́ўна, спако́йна

**keen** [kiːn] *adj.* **1.** *BrE* заўзя́ты; **a keen photographer** заўзя́ты фато́граф; **be keen on smth./smb.** захапля́цца чым-н./кім-н.; **be keen to do smth.** ве́льмі жада́ць зрабі́ць што-н. **2.** разу́мны; дасці́пны; прані́клівы **3.** во́стры; **keen sight** во́стры зрок; **keen hearing** то́нкі слых **4.** мо́цны; інтэнсі́ўны; **keen competition** мо́цная канкурэ́нцыя

**keep** [kiːp] *v.* **(kept) 1.** трыма́ць; захо́ўваць; *We keep our money in this bank.* Мы захоўваем свае грошы ў гэтым банку; **keep one's word/promise** трыма́ць сло́ва/абяца́нне **2.** пакіда́ць сабе́, не аддава́ць наза́д; не вярта́ць; *You can keep the book, I don't need it.* Вы можаце пакінуць кнігу сабе, яна мне не патрэбна. **3.** трыма́ць, мець; *They keep pigs.* Яны трымаюць свіней. **4.** застава́цца (*у якім-н. месцы, стане*); не мяня́ць; не мяня́цца; *He kept to his room.* Ён не выходзіў са свайго пакоя; *The weather kept dry.* Надвор'е заставалася сухім; **keep left/right** трыма́цца ле́вага/пра́вага бо́ку; **keep (on) doing smth.** праця́гваць

рабíць што-н.; **keep smb. waiting** прымушáць каго́-н. чакáць

**keep away** [ˌki:pəˈweɪ] *phr.v.* **(from)** трымáцца на адле́гласці; не падыхо́дзіць

**keep back** [ˌki:pˈbæk] *phr.v.* хавáць, утóйваць

**keep out** [ˌki:pˈaʊt] *phr.v.* не падыхо́дзіць, не ўвахо́дзіць

**keep up** [ˌki:pˈʌp] *phr.v.* працягваць (*рабіць што-н.*); працягвацца; **keep up with smb.** падтры́млíваць кантáкт з кім-н.; *The noise kept up all day.* Шум не сціхаў увесь дзень; *Keep up your spirits.* Не падай духам. ♦ **keep up appearances** рабíць вы́гляд, што нічо́га дрэ́ннага не здáрылася; **keep up with the Joneses** *infml* старáцца не адставáць ад знаёмых, быць не горш за íншых

**keeper** [ˈki:pə] *n.* даглядчык; вартаўні́к; **a lighthouse keeper** даглядчык маякá

**keeping** [ˈki:pɪŋ] *n.* **1.** до́гляд; апéка; **in safe keeping** у по́ўнай цэ́ласці/надзе́йнай захавáнасці **2.** адпаве́днасць; **in keeping with** у адпаве́днасці з; **out of keeping with smth.** не адпавядáць чаму́-н.; супярэ́чыць

**keepsake** [ˈki:pseɪk] *n.* падару́нак на пáмяць

**kefir** [ˈkefə] *n.* кефíр

**keg** [keg] *n.* невялíкая бо́чачка (*звыч. для піва*)

**kennel** [ˈkenl] *n.* бу́дка (*для сабакі*)

**kept** [kept] *past, p.p.* → **keep**

**kerb** [kɜ:b] *n. BrE* край тратуáра

**kerchief** [ˈkɜ:tʃɪf] *n.* хусці́нка, ху́стка

**kernel** [ˈkɜ:nl] *n.* **1.** ядро́ (*арэха, семя*) **2.** су́тнасць (*заявы, плана і да т.п.*)

**kerosene** [ˈkerəsi:n] *n.* (*таксама* **kerosine**) гáза

**kestrel** [ˈkestrəl] *n. zool.* пустэ́льга (*птушка*)

**ketchup** [ˈketʃəp] *n.* ке́тчуп

**kettle** [ˈketl] *n.* чáйнік ♦ **another/a different kettle of fish** *infml* зусíм íншая спрáва/рэч; **a fine/pretty kettle of fish** заблы́таная/ непрые́мная сітуáцыя

**kettledrum** [ˈketldrʌm] *n. mus.* літáўра

**key**[1] [ki:] *n.* **1.** ключ (*у розных знач.*) **2.** ключ; разгáдка **3.** клáвіш(а)

**key**[2] [ki:] *adj.* галóўны, аснóўны; ключавы́; ве́льмі вáжны; **key industries** аснóўныя/вядýчыя галіны́ прамысло́васці; **key points/questions** галóўныя пу́нкты/пытáнні; **key positions** ключавы́я пазíцыі

**keyboard** [ˈki:bɔ:d] *n.* **1.** клавіяту́ра **2.** кно́пачны нумаранабірáльнік (*у камп'ютары*)

**keyhole** [ˈki:həʊl] *n.* замо́чная шчы́ліна

**keynote** [ˈki:nəʊt] *n.* аснóўная ду́мка; аснóўны пры́нцып; лейтматы́ў

**keystone** [ˈki:stəʊn] *n.* **1.** краевуго́льны кáмень; асно́ва, галóўная чáстка плáна або́ до́казу **2.** *archit.* замко́вы кáмень

**kg** (*пісьмовае скар. ад* **kilogram**) кг, кілагрáм

**khaki** [ˈkɑ:ki] *n.* **1.** хáкі (*колер*) **2.** тканíна ко́леру хáкі

**kick**[1] [kɪk] *n.* **1.** удáр (*нагой, капытом, мячом*) **2.** *звыч. pl.* **kicks** *infml* асалóда **3.** *infml* нóвае захаплéнне

**kick**[2] [kɪk] *v.* біць (*нагой*); брыкáць; брыкáцца

**kick-off** [ˈkɪkɒf] *n.* **1.** час пачáтку футбо́льнай гульні́; пе́ршы ўдар па мячы́; *Kick-off at 5.00.* Пачатак гульні а 5-й гадзіне. **2.** *infml* пачáтак нóвай дзе́йнасці

**kid**[1] [kɪd] *n.* **1.** *infml* дзіця́ **2.** *infml* юнáк; дзяўчы́на; **college kids** студэ́нцкая мо́ладзь **3.** сын або́ дачкá **4.** казляня́, казлянё ♦ **treat/handle smb. with kid gloves** абыхо́дзіцца з кім-н. ве́льмі асцяро́жна, далікáтна

**kid**[2] [kɪd] *v. infml* **1.** дуры́ць; жартавáць; *Don't get angry, I was only kidding.* Не злуй, я толькі жартаваў; *No kidding?* Ты не жартуеш?; Гэта сур'ёзна? **2.** дурэ́ць, свавóліць; *Stop kidding around and listen to me.* Кінь дурэць і паслухай мяне.

**kidnap** [ˈkɪdnæp] *v.* выкрадáць (*людзей з мэтай атрымаць выкуп*)

**kidnapper** [ˈkɪdnæpə] *n.* выкрадáльнік (*людзей*)

**kidney** [ˈkɪdni] *n. anat.* ны́рка

**kill** [kɪl] *v.* **1.** забівáць; рэ́заць (*скаціну*) **2.** правáльваць (*план, прапанову і да т.п.*) **3.** спыняць (*боль, хваробу і да т.п.*) **4.** знішчáць; загубíць; *Cancer kills thousands of people every year.* Ад раку гінуць тысячы людзей кожны год; *Frost killed the plants.* Мароз загубіў расліны. ♦ **kill time** марнавáць час; **kill two birds with one stone** ≅ забíць двух зайцо́ў адны́м стрэ́лам

**killer** [ˈkɪlə] *n.* забо́йца; кíлер

**killing** [ˈkɪlɪŋ] *n.* забо́йства

**kilo** [ˈki:ləʊ] *n.* (*pl.* **kilos**) (*скар. ад* **kilogram**) кіло́

**kilobit** [ˈkɪləbɪt] *n. comput.* кілабíт

**kilobyte** [ˈkɪləbaɪt] *n. comput.* кілабáйт

**kilogram** [ˈkɪləgræm] *n.* кілагрáм

**kilometer** [ˈkɪləmi:tə] *AmE* = **kilometre**

**kilometre** [ˈkɪləmi:tə, kɪˈlɒmɪtə] *n. BrE* кіламе́тр

**kilt** [kɪlt] *n.* кілт, спадні́ца ў кле́тку (*звыч. з шарсцяной тканіны*); **the kilt** нацыянáльны ўбо́р шатлáндцаў

**kin** [kɪn] *n. pl. dated* сям'я́, радня́; **next of kin** бліжэ́йшая радня́

**kind**[1] [kaɪnd] *n.* род, гату́нак, разнавíднасць; *What kind of book do you want?* Якая кніга вам патрэбна?; *What kind of person is he?* Што ён за чалавек?; **different kinds of animals/plants** ро́зныя жывёлы/раслíны ♦ **in kind :** 1) **pay in kind** плацíць нату́рай 2) **re-**

**spond/return in kind** адка́зваць такі́м жа чы́нам, плаці́ць той жа мане́тай; **a kind of** *infml* не́шта накшта́лт гэ́тага, ама́ль што; **kind of** *infml* крыху́, пэ́ўным чы́нам; **nothing of the kind** ні ў я́кім ра́зе; **of a kind** таго́ ж са́мага ро́ду/ты́пу, адно́лькавыя

**kind²** [kaɪnd] *adj.* **(to)** до́бры, мі́лы; *That's very kind of you.* Гэта вельмі міла з вашага боку; *Would you be so kind as to tell me...* Будзьце ласкавы, скажыце мне...

**kindergarten** [ˈkɪndəˌgɑːtn] *n.* дзіця́чы сад(о́к)

**kind-hearted** [ˌkaɪndˈhɑːtɪd] *adj.* до́бры, чу́лы, спага́длівы

**kind-heartedness** [ˌkaɪndˈhɑːtɪdnəs] *n.* дабрыня́, чу́ласць, спага́длівасць, пато́ля

**kindle** [ˈkɪndl] *v.* распа́льваць; разгара́цца; **kindle a fire** распа́льваць аго́нь (*таксама перан.*); **kindle a desire** распа́льваць жада́нне

**kindliness** [ˈkaɪndlɪnəs] *n.* дабрыня́, мяккасардэ́чнасць

**kindly¹** [ˈkaɪndli] *adj.* до́бры; дружалю́бны; спага́длівы

**kindly²** [ˈkaɪndli] *adv.* ласка́ва, прыя́зна; добразычлі́ва; *Will/would you kindly pass the salt?* Будзьце ласкавы, перадайце соль; **look kindly on smb.** ста́віцца стано́ўча да каго́-н., ухваля́ць каго́-н.

**kindness** [ˈkaɪndnəs] *n.* дабрыня́, дабрата́; добразычлі́васць

**kinetic** [kɪˈnetɪk] *adj. phys.* кінеты́чны; **a kinetic tone** *ling.* кінеты́чны тон

**king** [kɪŋ] *n.* **(of)** каро́ль

**kingdom** [ˈkɪŋdəm] *n.* **1.** каралé́ўства; ца́рства; дзяржа́ва; **the United Kingdom** Злу́чанае Карале́ўства (Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі) **2.** ца́рства; свет; **the animal/plant kingdom** жывёльны/расли́нны свет; **mineral kingdom** нежыва́я прыро́да ♦ **till kingdom come** *dated* да друго́га прышэ́сця, ніко́лі

**kingfisher** [ˈkɪŋˌfɪʃə] *n. zool.* зімаро́дак

**king-size(d)** [ˈkɪŋsaɪz(d)] *adj.* ве́льмі вялі́кі; вялі́зны; **a king-size bed** вялі́зны ло́жак

**kink** [kɪŋk] *n.* **(in) 1.** пятля́; ву́зел **2.** загі́б, загі́н; зало́м **3.** завіто́к (*валасоў*) **4.** *infml* заско́к; выкрута́сы, вы́верт (*пра чалавека*)

**kinky** [ˈkɪŋki] *adj.* **1.** кучара́вы, у завітка́х **2.** *infml* (*пра чалавека*) дзіва́к, з дзіва́цтвамі, выкрута́самі; з сексуа́льнымі адхіле́ннямі

**kinship** [ˈkɪnʃɪp] *n. fml* **(with, between) 1.** (*кроўная*) ро́днасць **2.** схо́днасць, блі́зкасць (*характараў, інтарэсаў*)

**kiosk** [ˈkiːɒsk] *n.* кіё́ск, пала́тка

**kiss¹** [kɪs] *n.* пацалу́нак; **blow smb. a kiss** пасла́ць каму́-н. паве́траны пацалу́нак

**kiss²** [kɪs] *v.* цалава́ць; цалава́цца; **kiss smb. goodnight/goodbye** пацалава́ць каго́-н. пе́рад сном/на развіта́нне

**kit** [kɪt] *n.* **1.** набо́р, кампле́кт (*прыладаў для пэўнай мэты*) **2.** рышту́нак (*для турыстаў, салдат, спартсменаў і да т. п.*)

**kitbag** [ˈkɪtbæg] *n. BrE* рэ́чавы мяшо́к

**kitchen** [ˈkɪtʃn] *n.* ку́хня

**kitchen garden** [ˌkɪtʃnˈgɑːdn] *n.* агаро́д

**kite** [kaɪt] *n.* паве́траны змей; **fly a kite** запуска́ць зме́я

**kitsch** [kɪtʃ] *n.* кіч, тандэ́т, безгусто́ўнасць; мазані́на (*пра карціну*)

**kitten** [ˈkɪtn] *n.* кацяня́, кацянё

**kitty¹** [ˈkɪti] *n. infml* гро́шы, сабра́ныя для пэ́ўнай мэ́ты

**kitty²** [ˈkɪti] *n. infml* кі́са, кі́ска

**kiwi** [ˈkiːwiː] *n. zool.* кі́ві (*птушка*)

**kiwi fruit** [ˈkiːwiːˌfruːt] *n.* кі́ві (*фрукт*)

**km** (*пісьмовае скар. ад* **kilometre**) км, кіламе́тр

**knack** [næk] *n.* **1.** уме́нне, спрыт; **have a knack of doing smth.** быць ма́йстрам у чым-н. **2.** *BrE* звы́чай

**knapsack** [ˈnæpsæk] *n.* рукза́к

**knave** [neɪv] *n.* **1.** *BrE* вале́т (*у картах*) **2.** *infml* ашука́нец, круце́ль, махля́р

**knead** [niːd] *v.* **1.** мясі́ць (*цеста*) **2.** рабі́ць маса́ж, масажава́ць

**knee** [niː] *n.* кале́на; **sit on smb.'s knees** сядзе́ць у каго́-н. на кале́нях ♦ **bring smb. to his knees** перамагчы́ каго́-н., паста́віць каго́-н. на кале́ні; **at one's mother's knee** з дзяці́нства/з малако́м ма́ці

**kneecap** [ˈniːkæp] *n. anat.* кале́нная рэ́пка

**kneel** [niːl] *v.* **(knelt)** кле́нчыць

**knell** [nel] *n. fml* пахава́льны звон

**knelt** [nelt] *past, p.p.* → **kneel**

**knew** [njuː] *past* → **know²**

**knick-knack** [ˈnɪknæk] *n.* за́баўка, ца́цка

**knife¹** [naɪf] *n.* (*pl.* **knives**) нож, но́жык

**knife²** [naɪf] *v.* уда́рыць нажо́м; закало́ць

**knight** [naɪt] *n.* **1.** ры́цар **2.** конь (*у шахматах*)

**knit** [nɪt] *v.* **(knitted** *or* **knit) 1.** вяза́ць (*пруткамі*) **2. (together)** звя́зваць; быць звя́заным ♦ **knit one's brows** нахму́рыцца, насу́піцца

**knitter** [ˈnɪtə] *n.* **1.** вяза́льшчык; вяза́льшчыца **2.** вяза́льная машы́на

**knitting** [ˈnɪtɪŋ] *n.* вяза́нне; **a piece of knitting** вя́занка

**knitting needle** [ˈnɪtɪŋˌniːdl] *n.* вяза́льны пруто́к

**knitwear** [ˈnɪtweə] *n.* трыката́ж, трыката́жныя вы́рабы; вя́занае адзе́нне

**knives** [naɪvz] *pl.* → **knife**

**knob** [nɒb] *n.* **1.** шарападóбная рýчка (*на дзвярах, скрынцы і да т.п.*) **2.** кавáлачак; **melt a knob of butter in the pan** растапíць кавáлачак мáсла на патэ́льні

**knobbly** [ˈnɒbli] *adj.* шышкавáты; бугры́сты

**knobby** [ˈnɒbi] = **knobbly**

**knock**[1] [nɒk] *n.* **1.** стук; **a knock at/on the door** стук у дзвéры **2.** удар

**knock**[2] [nɒk] *v.* **(at/on) 1.** стýкаць; стýкацца **2.** біць

**knock down** [ˌnɒkˈdaʊn] *phr.v.* збівáць з ног; *I was knocked down by a car.* Мяне збіла машына.

**knocker** [ˈnɒkə] *n.* **1.** малатóк абó кальцó (*на знадворных дзвярах*) **2.** прыдзíра, прычэ́па

**knockout** [ˈnɒkaʊt] *n.* **1.** *sport* накáўт; *The fight ended in a knockout.* Бой скончыўся накаўтам. **2.** *infml* нéшта вéльмі прывáбнае абó сенсацы́йнае; хто-н. вéльмі прывáбны

**knot**[1] [nɒt] *n.* **1.** вýзел (*на вяроўцы, шнуры і да т.п.*) **2.** пучóк (*валасоў*) **3.** (*марскі*) вýзел (*мера хуткасці карабля = 1,853 км за гадзіну*)

**knot**[2] [nɒt] *v.* завя́зваць на вýзел/вузлóм

**knotty** [ˈnɒti] *adj.* **1.** каржакавáты, сучкавáты (*пра дрэва*) **2.** цяжкí, цяжкí; заблы́таны; **a knotty problem** заблы́таная спрáва/праблéма

**know**[1] [nəʊ] *n.* **:** ♦ **be in the know** быць у кýрсе спрáвы; быць дóбра інфармавáным

**know**[2] [nəʊ] *v.* **(knew, known) 1.** вéдаць; **as/so far as I know** накóлькі мне вядóма; **as you know** як вам вядóма; **I wouldn't know** *infml* адкýль мне вéдаць; *How do you know?* Адкуль вы ведаеце?/Чаму вы так лічыце? **2.** разумéць; *Do you know what I mean?* Вы разумееце, што я маю на ўвазе? **3.** быць знаёмым; *I know Mr Smith – he lives near me.* Я ведаю пана Сміта – ён жыве недалёка ад мяне; **get to know** знаёміцца; *I'm getting to know my neighbours*. Я знаёмлюся з маімі суседзямі. **4. (by)** пазнавáць; *I knew him by his voice.* Я пазнаў яго па голасе. ♦ **not know smb. from Adam** *infml* зусíм не вéдаць камý-н.; **know smth. inside out** вéдаць што-н. дасканáла; **know smb. by sight** вéдаць камý-н. у твар (*але не быць добра знаёмым*); **Heaven/God/who knows** *infml* бог/хто ягó вéдае

**know-all** [ˈnəʊɔːl] *n. BrE, infml* усёзнáйка, усёвéд

**know-how** [ˈnəʊhaʊ] *n. infml* ноу-хау; умéнне; вéды; сакрэ́ты тэхналóгіі

**knowingly** [ˈnəʊɪŋli] *adv.* **1.** вырáзна; *He glanced at me knowingly.* Ён выразна зірнуў на мяне. **2.** наўмы́сна; **kill knowingly** наўмы́сна забíць

**know-it-all** [ˈnəʊɪtɔːl] = **know-all**

**knowledge** [ˈnɒlɪdʒ] *n.* **(of/about) 1.** вéды **2.** вéданне, інфармавáнасць; **bring to smb.'s knowledge** давóдзіць да вéдама кагó-н.; **without smb.'s knowledge** без чыйгó-н. вéдама ♦ **to (the best of) my knowledge** накóлькі мне вядóма; **it is common knowledge that** ... усíм вядóма/усé вéдаюць, што ...

**knowledgeable** [ˈnɒlɪdʒəbl] *adj.* **(about)** дóбра інфармавáны; дасвéдчаны; той, хто вéдае шмат; *He's very knowledgeable about the history of the city.* Ён ведае шмат пра гісторыю горада.

**known** [nəʊn] *p.p.* → **know**[2]

**knuckle** [ˈnʌkl] *n.* сустáў (*пальца*)

**KO** [ˌkeɪˈəʊ] (*скар. ад* **knockout**) *n. sport* накáўт

**koala** [kəʊˈɑːlə] *n. zool.* каáла

**kodak** [ˈkəʊdæk] *n* **1.** фотаапарáт «кóдак» **2.** зды́мак, зрóблены фотаапарáтам «кóдак»

**Koran** [kəˈrɑːn] *n. relig.* Карáн

**Korean**[1] [kəˈriːən] *n.* **1.** карэ́ец; карэя́нка; **the Koreans** карэ́йцы **2.** карэ́йская мóва

**Korean**[2] [kəˈriːən] *adj.* карэ́йскі

**kph** [ˌkeɪpiːˈeɪtʃ] (*скар. ад* **kilometers per hour**) км/г, кіламéтраў у гадзíну

**krona** [ˈkrəʊnə] *n.* **1.** (*pl.* **kronur**) крóна (*грашовая адзінка Ісландыі*) 2. (*pl.* **kronor**) крóна (*грашовая адзінка Швецыі*)

**krone** [ˈkrəʊnə] *n.* (*pl.* **kroner**) крóна (*грашовая адзінка Даніі і Нарвегіі*)

**kudos** [ˈkjuːdɒs] *n.* прэсты́ж

**Ku Klux Klan** [ˌkuːklʌksˈklæn] *n.* ку-клукс-клáн

**kung fu** [ˌkʌŋˈfuː] *n. sport* кун-фý/кунг-фý (*від кітайскай барацьбы*)

**kW** (*пісьмовае скар. ад* **kilowatt**) *phys.* кВт, кілавáт

# Ll

**L, l** [el] *n. 12-я літара англійскага алфавіта*

**l 1.** (*пісьмовае скар. ад* **litre**) літр **2.** (*пісьмовае скар. ад* **line**) радóк

**Lab** [læb] (*скар. ад* **Labour**) лейбары́сцкая пáртыя

**lab** [læb] *n. infml* = **laboratory**

**label**[1] [ˈleɪbl] *n.* **1.** лэйбл, этыкéтка, ярлы́к; бíрка, налéпка **2.** ярлы́к (*перан.*)

**label**[2] [ˈleɪbl] *v.* **1.** наклéйваць налéпку, этыкéтку і да т.п.; вéшаць бíрку, ярлы́к **2.** прыклéйваць ярлы́к (*каму-н.; на што-н.*)

**labial** [ˈleɪbiəl] *adj. ling.* лабія́льны, губны́ (*пра гук*)

**labor** [ˈleɪbə] *AmE* = **labour**

**laboratory** [ləˈbɒrətri] *n.* лабараторыя; **a research laboratory** даследчая лабараторыя
**laborious** [ləˈbɔːriəs] *adj.* цяжкі, працаёмкі
**laboriously** [ləˈbɔːriəsli] *adv.* старанна
**labor union** [ˈleɪbəˌjuːniən] *n. AmE* прафсаюз
**labour**[1] [ˈleɪbə] *n. BrE* **1.** праца, работа (*асабліва фізічная*); **manual labour** фізічная праца **2.** рабочыя, працоўныя; рабочая сіла; **skilled/unskilled labour** кваліфікаваныя/некваліфікаваныя рабочыя; **cheap labour** танная рабочая сіла, нізкааплатныя рабочыя; **a shortage of labour** нястача, недахоп рабочых **3.** родавыя мукі, роды **4. Labour** лейбарысцкая партыя; **a Labour MP** член парламента ад партыі лейбарыстаў
**labour**[2] [ˈleɪbə] *v. BrE* **1.** (*цяжка*) працаваць **2.** змагацца, весці барацьбу
**labour camp** [ˈleɪbəˌkæmp] *n.* папраўча-працоўны лагер
**labourer** [ˈleɪbərə] *n. BrE* некваліфікаваны рабочы; **a farm labourer** работнік на ферме
**labour force** [ˈleɪbəˌfɔːs] *n. BrE* работнікі, працаўнікі, рабочая сіла
**labour market** [ˈleɪbəˌmɑːkɪt] *n. BrE* рынак працы
**labour movement** [ˈleɪbəˌmuːvmənt] *n.* рабочы рух
**Labour Party** [ˈleɪbəˌpɑːti] *n.* **the Labour Party** (*таксама* **Labour**) лейбарысцкая партыя, партыя лейбарыстаў
**labour-saving** [ˈleɪbəˌseɪvɪŋ] *adj.* які зберагае/эканоміць вялікія затраты працы; **a labour-saving device/gadget** прылада/інструмент, які зберагае затраты працы
**labyrinth** [ˈlæbərɪnθ] *n. fml* **1.** лабірынт **2.** што-н. вельмі складанае, блытаніна
**lace**[1] [leɪs] *n.* **1.** карункі **2.** шнурок (*у абутку*)
**lace**[2] [leɪs] *v.* **1. (up)** шнураваць **2.** аздабляць карункамі **3.** дадаваць алкаголь або наркотык у ежу, каву і да т.п.
**lack**[1] [læk] *n.* **(of)** недахоп, нястача; адсутнасць; **a lack of experience** недахоп/адсутнасць вопыту; **a complete/total lack of** поўная адсутнасць; **for/through lack of** з-за недахопу; **no lack of** дастатковая колькасць; мноства
**lack**[2] [læk] *v.* не мець, нехапаць, не мець дастаткова (*чаго-н.*); *He lacks confidence.* Яму не хапае ўпэўненасці.
**lackey** [ˈlæki] *n.* **1.** *dated* лакей **2.** *derog.* лакей, лёкай
**lacking** [ˈlækɪŋ] *adj.* **1. (in)** які не мае (*чаго-н.*); якому не хапае (*чаго-н.*) **2.** адсутны; *She seems to be lacking in tact.* Ёй, здаецца, не хапае такту.
**lackluster** [ˈlækˌlʌstə] *AmE* = **lacklustre**
**lacklustre** [ˈlækˌlʌstə] *adj. BrE* цьмяны; без бляску
**laconic** [ləˈkɒnɪk] *adj.* лаканічны, нешматслоўны, сціслы
**lacquer**[1] [ˈlækə] *n.* лак
**lacquer**[2] [ˈlækə] *v.* пакрываць лакам
**lactation** [lækˈteɪʃn] *n. fml* лактацыя
**lactic acid** [ˌlæktɪkˈæsɪd] *n.* малочная кіслата
**lactose** [ˈlæktəʊs] *n. chem.* лактоза
**lacuna** [ləˈkjuːnə] *n. fml* (*pl.* **lacunae** *or* **lacunas**) лакуна
**lacy** [ˈleɪsi] *adj.* карункавы
**lad** [læd] *n. BrE, infml* **1.** хлопец, юнак **2. the lads** сябры па працы
**ladder** [ˈlædə] *n.* **1.** драбіны; **a rope ladder** вяровачная лесвіца **2.** іерархічная лесвіца **3.** *BrE* спушчаныя вочкі ў панчохах, калготках і да т.п.
**laddie** [ˈlædi] *n. ScotE, infml* хлопец, юнак
**laden** [ˈleɪdn] *adj.* **1.** нагружаны; увешаны; *The tree was laden with fruit.* Дрэва гнулася ад пладоў. **2.** абцяжараны, прыгнечаны цяжарам (*перан.*); **laden with troubles/problems/debt** прыгнечаны цяжарам клопатаў/праблем/пазык
**ladies' room** [ˈleɪdizˌrʊm] *n. AmE* жаночая прыбіральня; туалет для жанчын
**ladle** [ˈleɪdl] *n.* **1.** апалонік **2.** чарпак
**lady** [ˈleɪdi] *n.* **1.** дама, пані **2. Lady** лэдзі (*тытул*); **Lady Diana** лэдзі Дыяна **3. the ladies** *BrE, infml* жаночы туалет
**ladybird** [ˈleɪdibɜːd] *n.* божая кароўка
**lag**[1] [læg] *n.* адставанне; спазненне; **a time lag of one month** спазненне на адзін месяц
**lag**[2] [læg] *v.* **(behind)** адставаць
**lager** [ˈlɑːgə] *n. BrE* светлае піва, лагер
**lagoon** [ləˈguːn] *n.* лагуна
**laid** [leɪd] *past, p.p.* → **lay**[3]
**lain** [leɪn] *p.p.* → **lie**[3]
**lair** [leə] *n* бярлог(а), нара (*таксама перан.*)
**laissez-faire** [ˌleseɪˈfeə] *n. франц.* неўмяшальніцтва; неўмяшанне; **a policy of laissez-faire** палітыка неўмяшальніцтва
**laity** [ˈleɪəti] *n.* **the laity** людзі, якія прымаюць удзел у дзейнасці царквы, але не належаць да духавенства
**lake** [leɪk] *n.* возера; **Lake Victoria** возера Вікторыя
**lama** [ˈlɑːmə] *n. relig.* лама
**lamb** [læm] *n.* **1.** ягня, ягнё **2.** маладая бараніна
**lame** [leɪm] *adj.* кульгавы; **go lame** стаць кульгавым; **a lame excuse** непераканаўчая адгаворка

**lame duck** [ˌleɪmˈdʌk] *n.* няўда́чнік; няўда́чніца; небара́ка, недарэ́ка

**lamely** [ˈleɪmli] *adv.* **1.** кульга́ючы **2.** запіна́ючыся, з запі́нкамі (*пра гаворку*)

**lameness** [ˈleɪmnəs] *n.* кульга́васць; кульга́нне

**lament**[1] [ləˈment] *n.* **1.** ля́мант, плач; галашэ́нне; го́ркая ска́рга **2.** жало́бная пе́сня/му́зыка

**lament**[2] [ləˈment] *v.* **1.** лямантава́ць, апла́кваць; галасі́ць (*па кім-н.*) **2.** ска́рдзіцца

**lamp** [læmp] *n.* ля́мпа; ліхта́р

**lampoon** [læmˈpuːn] *n.* памфле́т, па́сквіль

**lampshade** [ˈlæmpʃeɪd] *n.* абажу́р

**lance** [lɑːns] *n.* кап'ё

**land**[1] [lænd] *n.* **1.** зямля́; су́ша; **by land** па су́шы; **on land** на су́шы **2.** зямля́, гле́ба; **fertile land** урадлі́вая зямля́/гле́ба **3.** *lit.* краі́на; **one's native land** радзі́ма

**land**[2] [lænd] *v.* **1.** прызямля́цца **2.** выса́джвацца (*з самалёта, карабля*) **3.** выгружа́ць (*груз, людзей з самалёта, карабля*) **4.** *infml* нечака́на апыну́цца **5.** *infml* **(in, on)** даво́дзіць, прыво́дзіць; *His carelessness landed him in trouble.* Нядбайнасць прывяла яго да бяды. **6.** *infml* дабі́цца, здабы́ць (*месца працы, кантракт і да т.п.*); *He landed a good job.* Ён знайшоў добрае месца працы.

**landfill** [ˈlændfɪl] *n.* зако́пванне вялі́кай ко́лькасці сме́цця, адыхо́даў у глыбо́кую я́му; **a landfill site** мо́гільнік для сме́цця, адыхо́даў

**landing** [ˈlændɪŋ] *n.* **1.** ле́свічная пляцо́ўка **2.** паса́дка, прызямле́нне; вы́садка

**landlady** [ˈlændˌleɪdi] *n.* гаспады́ня кватэ́ры, гасці́ніцы; улада́льніца до́ма (*якая здае яго за плату*)

**landless** [ˈlændləs] *adj.* беззямéльны

**landlocked** [ˈlændlɒkt] *adj.* (краі́на) яка́я не ма́е вы́хаду да мо́ра

**landlord** [ˈlændlɔːd] *n.* **1.** гаспада́р кватэ́ры, гасці́ніцы; улада́льнік до́ма (*які здае яго за плату*) **2.** *hist.* лендло́рд

**landmark** [ˈlændmɑːk] *n.* **1.** **(in)** вяха́ **2.** назе́мны арыенці́р

**landowner** [ˈlændˌəʊnə] *n.* землеўлада́льнік, землеўла́снік

**landscape** [ˈlændskeɪp] *n.* **1.** краяві́д, пейза́ж, ландшафт **2.** пейза́ж (*від жывапісу, малюнак*) **3.** агу́льная карці́на/сітуа́цыя (*перан.*); **political landscape** агу́льная палітычная сітуа́цыя

**landslide** [ˈlændslaɪd] *n.* **1.** апо́ўзень **2.** (*таксама* **a landslide victory**) (бліску́чая) перамо́га на вы́барах; **by a landslide** са зна́чнай перава́гай

**lane** [leɪn] *n.* **1.** ву́зенькая даро́га; сце́жка (*асабліва за горадам*) **2.** заву́лак **3.** рад (*руху транспарту*) **4.** даро́жка (*у спаборніцтвах*) **5.** тра́са (*у паветры або на моры*)

**language** [ˈlæŋgwɪdʒ] *n.* мо́ва; **a native language** ро́дная мо́ва; **modern languages** сучасныя мо́вы; **a dead language** мёртвая мо́ва; **bad/foul language** бры́дкія сло́вы, ла́янка

**language laboratory** [ˈlæŋgwɪdʒləˌbɒrətri] *n.* клас/лабарато́рыя тэхні́чных сро́дкаў навуча́ння мо́ве

**languid** [ˈlæŋgwɪd] *adj. fml* паво́льны; мару́длівы; вя́лы, млявы

**languish** [ˈlæŋgwɪʃ] *v. fml* ча́хнуць, чэ́знуць, марне́ць, знемага́ць

**lanky** [ˈlæŋki] *adj.* цыба́ты, падга́лісты, даўгавя́зы

**lantern** [ˈlæntən] *n.* ліхта́р

**Laotian**[1] [ˈlaʊʃn, leɪˈəʊʃn] *n.* **1.** лао́сец; лао́ска **2.** лао́ская мо́ва

**Laotian**[2] [ˈlaʊʃn, leɪˈəʊʃn] *adj.* лао́скі

**lap**[1] [læp] *n.* **1.** **(in, on)** калéні (*чалавека, які сядзіць*); *She sat with her hands in her lap.* Яна сядзела, склаўшы рукі на каленях. **2.** *sport* эта́п дыста́нцыі, круг; **a lap of honour/a victory lap** *AmE* круг го́нару **3.** адказнасць; зале́жнасць ♦ **in the lap of the gods** у бо́жых рука́х

**lap**[2] [læp] *v.* **1.** **(against)** плёскацца (*пра хвалі*) **2.** піць (*звычайна пра жывёліну*) **3.** *sport* апярэ́дзіць на круг

**lap up** [ˌlæpˈʌp] *phr.v. infml* пра́гна піць (*таксама перан.*)

**lapel** [ləˈpel] *n.* ла́цкан

**lapse**[1] [læps] *n.* **1.** недарэ́чная памы́лка, недагля́д, ля́псус; **a memory lapse** права́л па́мяці; **a lapse of the tongue** агаво́рка; **a lapse of the pen** апі́ска **2.** праме́жак ча́су

**lapse**[2] [læps] *v.* **1.** спыня́цца (*канчаткова або на пэўны час*) **2.** *law* стра́чваць сі́лу **3.** па́сці (*маральна*)

**lapse into** [ˌlæpsˈɪntə] *phr.v.* перахо́дзіць у больш спако́йны, менш акты́ўны стан; **lapse into silence/sleep** замо́ўкнуць/засну́ць

**laptop** [ˈlæptɒp] *n. comput.* лэпто́п (*невялікі пераносны камп'ютар*)

**lapwing** [ˈlæpwɪŋ] *n. zool.* кні́гаўка, ка́ня (*птушка*)

**larceny** [ˈlɑːsəni] *n. law* кра́жа, крадзе́ж

**larch** [lɑːtʃ] *n. bot.* лісто́ўніца

**lard**[1] [lɑːd] *n.* лярд, то́пленае свіно́е са́ла

**lard**[2] [lɑːd] *v.* шпігава́ць (*салам*) ♦ **lard one's speech (with)** аздабля́ць/перасыпа́ць сваю́ мо́ву (*спецыфічнымі словамі, цытатамі і да т.п.*)

**larder** [ˈlɑːdə] *n.* кладо́ўка

**large** [lɑːdʒ] *adj.* **1.** вялі́кі; **a large city/room** вялі́кі го́рад/пако́й **2.** ва́жны, сур'ёзны; **a large problem** ва́жная праблéма; **a large issue** сур'ёзнае пыта́нне ♦ **at large** 1) нао́гул, у асно́ўным; **the public at large** шыро́кія ко́лы грама́дства 2) на во́лі (*пра збеглых звяроў*)

**largely** [ˈlɑːdʒli] *adv.* у зна́чнай мéры/ступéні; у асно́ўным, гало́ўным чы́нам

**large-scale** [ˈlɑːdʒskeɪl] *adj.* буйнамашта́бны

**lark** [lɑːk] *n.* жа́варанак, жа́ўранак, жаўру́к

**larva** [ˈlɑːvə] *n. entomol.* (*pl.* **larvae**) лічы́нка

**larvae** [ˈlɑːviː] *pl.* → **larva**

**larynx** [ˈlærɪŋks] *n. anat.* гарта́нь

**lascivious** [ləˈsɪviəs] *adj. fml* юрлі́вы, пажадлі́вы

**laser** [ˈleɪzə] *n. phys.* ла́зер

**laser printer** [ˈleɪzəˌprɪntə] *n. comput.* ла́зерны пры́нтар

**lash¹** [læʃ] *n.* **1.** бізу́н **2.** уда́р бізуно́м **3.** вéйка

**lash²** [læʃ] *v.* **1.** хваста́ць, сцяба́ць **2.** бічава́ць, высмéйваць

**lash out** [ˌlæʃˈaʊt] *phr.v.* **(at)** накі́двацца (*на каго-н.*); пача́ць ла́яцца (*на каго-н.*)

**lass** [læs] *n. ScotE* дзяўчы́на; малада́я жанчы́на

**last¹** [lɑːst] *n.* **the last : be the last to do smth.** зрабі́ць што-н. апо́шнім, пасля́ і́ншых; *The captain was the last to leave the ship.* Капітан пакінуў карабель апошнім. ♦ **at (long) last** нарэ́шце; урэ́шце; нарэ́шце-такі́; **last but one** *BrE* перадапо́шні; **to/till the last** да канца́

**last²** [lɑːst] *adj.* **1.** міну́лы; **last Tuesday** у міну́лы аўто́рак; **last week** на міну́лым ты́дні; **last year** лéтась, у міну́лым го́дзе **2.** апо́шні; **in the last two/five years** за апо́шнія два гады́/пяць гадо́ў; **the last chapter** апо́шняя глава́ ♦ **the last person/thing** (*самы*) непажаданы; неспадзява́ны; *He is the last person I expected to see.* Менш за ўсё я спадзяваўся ўбачыць яго; **on one's last legs** ця́жка хво́ры; **on its last legs** у вéльмі дрэ́нным ста́не; *This machine is on its last legs.* Гэта машына вось-вось развапіцца.

**last³** [lɑːst] *v.* **(for, until, through) 1.** праця́гвацца; трыма́цца; *The game lasted 2 hours.* Гульня працягвалася 2 гадзіны; *The hot weather lasted* (*for*) *the whole summer.* Гарачае надвор'е трымалася ўсё лета. **2.** (*таксама* **last out**) вы́трымаць, вы́стаяць (*нягледзячы на цяжкасці*) **3.** хапа́ць (*быць дастатковым*); *The water supply should last another 48 hours.* Запасаў вады павінна хапіць яшчэ на 2 дні.

**last⁴** [lɑːst] *adv.* апо́шні раз; *When did you see him last?* Калі ты бачыў яго апошні раз? ♦ **last but not least** апо́шняе, але́ не менш ва́жнае

**lasting** [ˈlɑːstɪŋ] *adj.* до́ўгі, трыва́лы; пастая́нны; **a lasting peace** трыва́лы мір; **a lasting impression** непазбы́ўнае, глыбо́кае ўра́жанне

**lastly** [ˈlɑːstli] *adv.* нарэ́шце, урэ́шце, у рэ́шце рэшт

**last name** [ˈlɑːstneɪm] *n.* про́звішча

**latch¹** [lætʃ] *n.* **1.** за́саўка, за́шчапка; запо́р; кля́мка **2.** амерыка́нскі замо́к ♦ **on the latch** *BrE* на за́саўцы

**latch²** [lætʃ] *v.* зачыні́ць на за́саўку, кля́мку (*дзверы, акно і да т.п.*)

**latch on** [ˌlætʃˈɒn] *phr.v. infml* зразумéць, скéміць, сця́міць, змікі́ціць

**latchkey** [ˈlætʃkiː] *n.* ключ ад замка́

**late¹** [leɪt] *adj.* **1.** по́зні, запо́знены; *It's late.* Позна; **be late for** спазня́цца; *John was late for school.* Джон спазніўся ў школу; *The train was an hour late.* Цягнік спазніўся на гадзіну. **2.** у канцы́; **in the late 19th century** у канцы́ XIX стаго́ддзя **3.** нябо́жчык; **her late husband** яе нябо́жчык муж; **the late president** нябо́жчык прэзідэ́нт

**late²** [leɪt] *adv.* **1.** по́зна; *He married late.* Ён позна ажаніўся **2.** у канцы́; **late in August/1995** у канцы́ жні́ўня/1995 (го́да) ♦ **better late than never** лепш по́зна, чым ніко́лі; **of late** *fml* няда́ўна; *His life has changed of late.* Нядаўна яго жыццё змянілася.

**latecomer** [ˈleɪtkʌmə] *n.* той, хто спазні́ўся

**lately** [ˈleɪtli] *adv.* апо́шнім ча́сам, няда́ўна

**latent** [ˈleɪtənt] *adj.* латэ́нтны, скры́ты

**later¹** [ˈleɪtə] *adj.* пазнéйшы, больш по́зні; *The meeting was postponed to a later date.* Сход быў адкладзены на больш познюю дату.

**later²** [ˈleɪtə] *adv.* **1.** пазнéй, по́тым; *I'll join you later.* Я далучуся да вас потым. **2.** праз; **two years later** праз два гады́; **five days later** праз пяць дзён ♦ **not/no later than** не пазнéй чым

**lateral** [ˈlætərəl] *adj.* латэра́льны; бакавы́; папяро́чны; **lateral thinking** шыро́кі кругагля́д; **a lateral plosion** *ling.* латэра́льны вы́бух

**latest** [ˈleɪtɪst] *adj.* **1.** апо́шні; **the latest news** апо́шнія наві́ны **2.** найно́ўшы, са́мы но́вы; **the latest model** са́мая апо́шняя/са́мая но́вая мадэ́ль ♦ **at the latest** не пазнéй чым; *I'll be back by 6 o'clock at the latest.* Я вярнуся не пазней чым а 6 гадзіне.

**lathe** [leɪð] *n.* тока́рны стано́к

**lather** [ˈlɑːðə] *n.* мы́льная пéна

**Latin¹** [ˈlætɪn] *n.* **1.** лацíнская мóва, лацíна **2.** жыхáр краíны, дзе размаўляюць на аднóй з ramáнскіх моў

**Latin²** [ˈlætɪn] *adj.* **1.** лацíнскі **2.** рамáнскі

**Latin American** [ˌlætɪnəˈmerɪkən] *adj.* лацінаамерыкáнскі

**Latino** [læˈtiːnəʊ] *n.* (*pl.* **Latinos**) лацінаамерыкáнец

**latitude** [ˈlætɪtjuːd] *n.* **1.** *geog.* шыратá **2.** *fml* **(in/for)** свабóда (*дзеяннях*); шырынá (*поглядаў*); цярпíмасць

**latter** [ˈlætə] *adj. fml* апóшні, другí (*з двух названых раней*)

**latter-day** [ˌlætəˈdeɪ] *adj.* сучáсны (*як параўнанне з кім-н. або чым-н. у мінулым*); **a latter-day Robin Hood** сучáсны Рóбін Гуд

**lattice** [ˈlætɪs] *n.* рашóтка

**Latvian¹** [ˈlætviən] *n.* **1.** латы́ш; латы́шка; **the Latvians** латышы́ **2.** латы́шская мóва

**Latvian²** [ˈlætviən] *adj.* латвíйскі; латы́шскі

**laud** [lɔːd] *v. fml* хвалíць, усхваляць

**laugh¹** [lɑːf] *n.* смех; **give a laugh** засмяяцца ♦ **have the last laugh** пасмяяцца апóшнім (*выйсці пераможцам у спрэчцы, барацьбе*)

**laugh²** [lɑːf] *v.* **(at/about)** смяяцца; *What were they laughing at?* З чаго яны смяяліся?; **burst out laughing** засмяяцца, зарагатáць; **it's no laughing matter** *infml* не жáрты, не жáртачкі; *Losing your job is no laughing matter.* Страціць працу – гэта табе не жартачкі.

**laughable** [ˈlɑːfəbl] *adj.* смéшны, камíчны; смяхóтны

**laughing stock** [ˈlɑːfɪŋˌstɒk] *n.* пасмéшышча

**laughter** [ˈlɑːftə] *n.* смех, рóгат; **hysterical laughter** істэры́чны рóгат

**launch¹** [lɔːntʃ] *n.* спуск (*на ваду карабля*); зáпуск (*ракеты*)

**launch²** [lɔːntʃ] *v.* **1.** спускáць (*на ваду карабель*), запускáць (*ракету, спадарожнік*) **2.** пачынáць, распачынáць (*запланаваную дзейнасць, кампанію, атаку*); *The police have launched an enquiry.* Паліцыя пачала расследаванне. **3.** выпускáць у прóдаж (*новы прадукт, выраб, кнігу*)

**launch³** [lɔːntʃ] *n.* матóрная лóдка, кáтар

**launch pad** [ˈlɔːntʃpæd] *n.* (*таксама* **launching pad**) стáртавая пляцóўка/платфóрма (*таксама перан.*)

**launder** [ˈlɔːndə] *v.* **1.** *fml* мыць (*бялізну*) **2.** адмывáць грóшы (*перан.*); *They laundered the money via a small firm.* Яны нелегальна правялі грошы праз невялікую фірму.

**laund(e)rette** [ˌlɔːnˈdret] *n. BrE* прáльня самаабслугóўвання

**laundromat** [ˈlɔːndrəmæt] *n. AmE* прáльня самаабслугóўвання

**laundry** [ˈlɔːndri] *n.* **1.** прáльня **2.** бялíзна; **clean/dirty laundry** чы́стая/брýдная бялíзна

**laurel** [ˈlɒrəl] *n.* **1.** *bot.* лаўр **2.** *pl.* **laurels** лáўры, прызнáнне, ушанавáнне ♦ **rest on one's laurels** спачывáць на лáўрах

**lav** [læv] *n. BrE, infml* прыбірáльня, туалéт

**lava** [ˈlɑːvə] *n.* лáва

**lavatory** [ˈlævətri] *n. fml* прыбірáльня, туалéт

**lavender** [ˈlævəndə] *n.* **1.** *bot.* лавáнда **2.** блéдналілóвы кóлер

**lavish¹** [ˈlævɪʃ] *adj.* **1.** **(with/in)** шчóдры **2.** марнатрáўны; празмéрны

**lavish²** [ˈlævɪʃ] *v.* **(on/upon)** дары́ць, шчóдра раздавáць

**lavishly** [ˈlævɪʃli] *adv.* **1.** шчóдра **2.** празмéрна

**law** [lɔː] *n.* **1.** закóн; **break the law** парушáць закóн; **by law** па закóне, згóдна з закóнам; **within the law** у рáмках закóну **2.** прáва; **criminal/international law** крымінáльнае/міжнарóднае прáва **3.** закóн (*пра бізнес, прыроду, навуку*); **the law of gravity** закóн прыцяжэ́ння **4.** суд; **go to law** звярнýцца ў суд **5.** прáвіла; **the laws of football** прáвілы ігры́ ў футбóл **6.** юрыспрудэ́нцыя; **practise law** быць юры́стам **7. the law** *infml* палíцыя; *Open the door, that's the law.* Адчыніце дзверы, гэта паліцыя. ♦ **the law of the jungle** закóн джýнгляў

**law-abiding** [ˈlɔːəˌbaɪdɪŋ] *adj.* законапаслухмяны

**law and order** [ˌlɔːəndˈɔːdə] *n.* **1.** правапарáдак **2.** закóннасць

**lawbreaker** [ˈlɔːˌbreɪkə] *n.* парушáльнік закóну

**law court** [ˈlɔːkɔːt] *n. BrE* суд

**law enforcement** [ˈlɔːɪnˌfɔːsmənt] *n.* праваахóўная/законаахóўная дзéйнасць

**lawful** [ˈlɔːfl] *adj. fml* закóнны

**lawfully** [ˈlɔːfəli] *adv.* закóнна

**lawless** [ˈlɔːləs] *adj.* беззакóнны; незакóнны

**lawlessness** [ˈlɔːləsnəs] *n.* беззакóннасць; незакóннасць

**lawmaker** [ˈlɔːˌmeɪkə] *n.* заканадáвец, заканадáўца

**lawn¹** [lɔːn] *n.* газóн

**lawn²** [lɔːn] *n.* баты́ст

**lawsuit** [ˈlɔːs(j)uːt] *n.* судóвы працэ́с; **bring in a lawsuit** прад'яўляць іск

**lawyer** [ˈlɔːjə] *n.* юры́ст; адвакáт; юрыскóнсульт

**lax** [læks] *adj.* нядбáйны; нястрóгі; **lax discipline** слáбая дысцыплíна

**laxative** [ˈlæksətɪv] *n.* слабíцельнае (*пра лякарства, ежу*)

**lay**[1] [leɪ] *adj.* непрафесíйны (*пра чалавека, які не з'яўляецца спецыялістам, прафесіяналам у чым-н.*); *The lay reader may find the book difficult.* Неспецыялісту кніжка можа здацца складанай.

**lay**[2] [leɪ] *past* → **lie**[3]

**lay**[3] [leɪ] *v.* **(laid) 1.** клáсці, паклáсці (*асцярожна, акуратна*); **lay the basis/foundation(s)** закладáць аснóвы; **2. lay the table** накрывáць (на) стол; **3.** нéсціся; нéсці/клáсці я́йкі (*пра птушак*); адкладáць/клáсці я́йцы (*пра насякомых, паўзуноў, млекакормячых*) ♦ **lay the blame on** ускладáць вінý (*на каго-н.*)

**lay aside** [ˌleɪəˈsaɪd] *phr.v.* **1.** адклáсці, адстáвіць убок **2.** захавáць на бýдучае

**lay down** [ˌleɪˈdaʊn] *phr.v.* **1.** паклáсці; склáсці (*зброю, інструменты і да т.п.*) **2.** заклáсці (*фундамент будынка*) **3.** устанáўліваць, вызначáць (*правілы і да т.п.*)

**lay off** [ˌleɪˈɒf] *phr.v. infml* **1.** звальня́ць (*звыч. часова*) **2.** спыні́ць рабíць абó ўжывáць што-н.; *He should lay off alcohol before it's too late.* Пакуль не позна, яму трэба кінуць піць.

**lay out** [ˌleɪˈaʊt] *phr.v.* **1.** выкладáць; раскладáць; *He laid out the map.* Ён разгарнуў карту. **2.** планавáць, праектавáць **3.** *infml* трáціць грóшы **4.** *infml* паваліць, збіць з ног

**lay up** [ˌleɪˈʌp] *phr.v.* **(with)** быць прыкавáным да лóжка (*з-за хваробы*); *He was laid up with a broken leg.* Ён быў прыкаваны да ложка з-за зламанай нагі.

**layabout** [ˈleɪəˌbaʊt] *n. BrE, infml, dated* гультáй, лóдар, лайдáк

**lay-by** [ˈleɪbaɪ] *n. BrE* прыдарóжная пляцóўка для прыпы́нку аўтамашы́н

**layer**[1] [ˈleɪə] *n.* **(of)** слой, пласт

**layer**[2] [ˈleɪə] *v.* наслóйваць, напластóўваць

**layered** [ˈleɪəd] *adj.* слаíсты; **multi-layered/single-layered** шматслóйны/аднаслóйны

**layman** [ˈleɪmən] *n.* (*pl.* **-men**) **1.** непрафесіянáл; дылетáнт; **a book for laymen** кнíга для шырóкага кóла чытачóў **2.** *eccl.* чалавéк, які не мáе духóўнага звáння, алé налéжыць да хрысція́нскай царквы́

**lay-off** [ˈleɪɒf] *n.* **1.** звальнéнне **2.** перапы́нак на нéйкі перы́яд у прáцы абó акты́ўнай дзéйнасці

**layout** [ˈleɪaʊt] *n.* план; планірóўка; размяшчэ́нне

**laziness** [ˈleɪzinəs] *n.* лянóта, гультáйства

**lazily** [ˈleɪzili] *adv.* ляні́ва, гультаявáта

**lazy** [ˈleɪzi] *adj.* ляні́вы, гультаявáты; **spend a lazy Sunday** правéсці нядзéлю нічóга не рóбячы

**lb** *BrE* (*pl.* **lb** *or* **lbs**) (*пісьмовае скар. ад* **pound**) фунт (= *454 г.*)

**lead**[1] [liːd] *n.* **1. the lead** першынствó; **be in the lead** быць упéрадзе/на пéршым мéсцы **2. (over, of)** перавáга; **have a lead of several points over smb.'s rival** мець перавáгу ў нéкалькі ачкóў над сваíм сапéрнікам **3.** кіраўні́цтва; пры́клад; ініцыяты́ва; **give a lead to smb.** давáць пры́клад камý-н.; **take the lead** браць, узя́ць (*на сябе*) кіраўні́цтва/ініцыяты́ву; **follow smb.'s lead** браць з кагó-н. пры́клад **4.** след; ключ; *The police are looking for a lead.* Паліцыя спрабуе выйсці на след. **5.** галóўная рóля; галóўны выканáўца (*у п'есе, фільме*) **6.** *BrE* павадóк, швóрка; *The dog was on the lead.* Сабака быў на павадку. **7.** *BrE* сáмае вáжнае паведамлéнне (*у газеце*) **8.** *BrE, electr.* прóвад

**lead**[2] [liːd] *v.* **(led) 1.** вéсці (*у розных знач.*); **lead smb. by the hand** вéсці кагó-н. за рукý; *Where does the road lead?* Куды вядзе гэта дарога?; *He led an active life.* Ён вёў актыўны лад жыцця; **lead the way** пакáзваць дарóгу, вéсці за сабóй **2.** кіравáць, быць на чалé; **lead a party/a campaign** быць на чалé пáртыі/кампáніі; **lead a choir** кіравáць хóрам ♦ **lead smb. by the nose** прымушáць кагó-н. ісці́ на павадкý, трымáць кагó-н. на павадкý

**lead**[3] [led] *n.* **1.** *chem.* свінéц **2.** графíт; гры́фель (*у алоўку*)

**leaden** [ˈledn] *adj. lit.* **1.** свінцóвы; шэ́ры; **leaden clouds/waves** свінцóвыя хмáры/хвáлі **2.** нýдны; **a leaden performance** нýдны спектáкль **3.** павóльны; стóмлены (*пра рух*); ця́жкі (*пра крокі*)

**leader** [ˈliːdə] *n.* **1. (of)** лíдар; кіраўнíк; правады́р **2.** *BrE* перадавы́ арты́кул **3.** *BrE* пéршая скры́пка (*у аркестры*) **4.** *AmE* дырыжóр

**leadership** [ˈliːdəʃɪp] *n.* **1.** кіраўні́цтва **2.** умéнне, здóльнасць павéсці за сабóй людзéй **3.** першынствó (*у канкурэнцыі, спаборніцтве*)

**lead-in** [ˈliːdɪn] *n.* устýп; устýпнае слóва (*асабліва на радыё або тэлебачанні*)

**leading** [ˈliːdɪŋ] *adj.* **1.** вядýчы, кірýючы, перадавы́; **a leading industrial nation** вядýчая/перадавáя індустрыя́льная краíна **2.** аснóўны, галóўны; **a/the leading part** галóўная рóля (*у фільме, п'есе*)

**leaf**[1] [liːf] *n.* (*pl.* **leaves**) **1.** ліст (*дрэва*); **oak leaves** лíсце дýба; **come into leaf** распускáцца; **in leaf** пакры́ты лістóтай **2.** ліст (*кнігі, металу*) ♦ **shake like a leaf** калаціцца/дрыжáць як асíнавы ліст; **take a leaf from smb.'s book** браць пры́клад з кагó-н.; **turn over a new leaf** пачáць жыць па-нóваму

**leaf²** [liːf] *v.* **: leaf through** перагóртваць (*старонкі кнігі*)

**leafless** [ˈliːfləs] *adj.* без лíсця (*пра дрэва або расліну*)

**leaflet** [ˈliːflət] *n.* **1.** лістóўка, улётка **2.** буклéт

**leafy** [ˈliːfi] *adj.* **1.** густалíсты **2.** зарóслы мнóствам дрэў і раслíн

**league** [liːg] *n.* **1.** лíга, аб'яднáнне, саю́з **2.** клас, катэгóрыя; **be not in the same league (as)** не ісцí ні ў якóе параўнáнне ♦ **be in league (with smb.)** быць у змовé (з кім-н.)

**leak¹** [liːk] *n.* **1.** цéча, дзíрка, прабóіна; **a leak in a boat/roof** цéча ў лóдцы/дáху **2.** уцéчка; **a gas/water/oil leak** уцéчка гáзу/вады́/нáфты **3.** уцéчка інфармáцыі

**leak²** [liːk] *v.* працякáць, цячы́; *The roof leaks when it rains.* Дах працякае, калі ідзе дождж.

**leaky** [ˈliːki] *adj.* той, што працякáе; дзірáвы; **a leaky bucket** дзірáвае вядрó

**lean¹** [liːn] *adj.* **1.** худы́, хударля́вы **2.** пóсны, нятлу́сты (*пра мяса*) **3.** ця́жкі (*пра час*); **a lean year for business** ця́жкі год для бізнесу **4.** эканóмны, канкурэнтаздóльны (*пра фірму, арганізацыю і да т.п.*)

**lean²** [liːn] *v.* **(leant** *BrE or* **leaned) 1. (forward, back, over)** нахіля́ць; нахіля́цца; схіля́ць; схіля́цца **2. (against/on)** прыхіля́ць; прыхіля́цца

**leaning** [ˈliːnɪŋ] *n.* **(towards)** схíльнасць, прыхíльнасць

**leant** [lent] *past, p.p.* → **lean²**

**lean-to** [ˈliːntuː] *n.* (*pl.* **-tos**) прыбудóва (*невялікіх памераў*)

**leap¹** [liːp] *n.* **1.** (вялíкі) скачóк; **a leap of 5 metres** скачóк на 5 мéтраў **2. (in)** скачóк, павелічэ́нне (*перан.*); **a leap in prices** рэ́зкае павелічэ́нне/скачóк цэн ♦ **by/in leaps and bounds** імклíва, сямімíльнымі крóкамі

**leap²** [liːp] *v.* **(leapt** *or* **leaped) 1.** скакáць, падскóкваць (*таксама перан.*); *The price of gas has leapt again.* Цэны на газ зноў падскочылі. **2. (at)** ухапíцца (*за што-н.*); **leap at the chance/opportunity** ухапíцца за шáнец/магчы́масць

**leapfrog** [ˈliːpfrɒg] *n.* чахардá

**leapt** [ˈlept] *past, p.p.* → **leap²**

**leap year** [ˈliːp͵jɪə] *n.* высакóсны год

**learn** [lɜːn] *v.* **(learned** *or* **learnt) 1.** вывучáць, вучы́ць; вучы́цца; *What language do you learn?* Якую мову вы вывучаеце?; **learn to swim/to use a computer** вучы́цца плáваць/карыстáцца камп'ютарам **2. (of/about)** давéдвацца; *I learned the news this morning*. Я даведаўся пра гэту навіну сёння раніцай.

**learned** [ˈlɜːnɪd] *adj.* **1.** які́ валóдае глыбóкімі вéдамі, вучóны, эрудзíраваны **2.** навукóвы; **learned books/works** навукóвыя кнíгі/прáцы

**learner** [ˈlɜːnə] *n.* **1.** ву́чань; *He's a quick learner.* Ён здольны вучань. **2.** вадзíцель-ву́чань

**learning** [ˈlɜːnɪŋ] *n.* **1.** вывучэ́нне, вучóба **2.** вéды, эруды́цыя; **a man of great learning** чалавéк з вялíкай эруды́цыяй

**learnt** [lɜːnt] *past, p.p.* → **learn**

**lease¹** [liːs] *n.* арэ́нда; **a long lease** доўгатэрмінóвая арэ́нда; **take out a lease** браць у арэ́нду; *We took the house on a 20-year lease*. Мы ўзялі гэты дом у арэнду на 20 гадоў; *The lease is running out.* Тэрмін арэнды заканчваецца. ♦ **give a (new) lease of life** *BrE* вяртáць здарóўе/сíлы/пóспех і да т.п.; *The operation has given me a new lease of life.* Аперацыя вярнула мне здароўе і сілы.

**lease²** [liːs] *v.* **1.** арандавáць, браць у арэ́нду; **lease smth. from smb.** арандавáць што-н. у кагó-н. **2.** (*таксама* **lease out**) здавáць у арэ́нду; **lease smb. smth./lease smth. (out) to smb.** здавáць што-н. камý-н.

**leash** [liːʃ] *n.* паводóк; *All dogs in public places must be on a leash.* Усе сабакі ў грамадскіх месцах павінны быць на павадку.

**least¹** [liːst] *n.* мінімáльная кóлькасць; *That's the least of my worries.* Гэта мяне турбуе менш за ўсё. ♦ **to say the least** мя́кка кáжучы; **not in the least** нікóлькі, зусíм не, ніякім чы́нам; *I'm not in the least interested in that.* Я нікольки гэтым не цікаўлюся.

**least²** [liːst] *adj.* (*звыч.* **the least**) наймéншы, сáмы малы́, сáмы нязнáчны; *He hasn't the least idea of it.* Ён не мае пра гэта аніякага ўяўлення. ♦ **last but not least** апóшні, алé не менш вáжны

**least³** [liːst] *adv.* наймéней, наймéнш, менш за ўсё; *It happened when we least expected it*. Гэта здарылася, калі мы менш за ўсё гэтага чакалі. ♦ **at least** прынáмсі; *You should at least apologize.* Прынамсі, вам трэба папрасіць прабачэння.

**leather¹** [ˈleðə] *n.* ску́ра (*вырабленая скура жывёліны*)

**leather²** [ˈleðə] *adj.* скураны́

**leave¹** [liːv] *n.* **1.** (*таксама* **leave of absence**) вóдпуск, адпачы́нак; **be on leave** знахóдзіцца ў вóдпуску; **sick leave** вызвалéнне ад прáцы з-за хварóбы; **maternity leave** дэкрэ́тны вóдпуск **2.** *fml* дазвóл; **give smb. leave to do smth.** даць камý-н. дазвóл зрабíць што-н. ♦ **take leave of smb./take one's leave** развíтвацца

**leave**[2] [liːv] *v.* **(left) 1.** пайсці́, вы́йсці, пае́хаць; *They left Rome for Paris.* З Рыма яны паехалі ў Парыж; *What time did you leave home?* Калі вы выйшлі/пайшлі з дому? **2.** ад’язджа́ць, адыхо́дзіць, адпраўля́цца; *The train leaves at 8 a.m.* Цягнік адпраўляецца а 8 гадзіне раніцы. **3.** кі́даць, пакіда́ць; *He left his family.* Ён пакінуў сям’ю; *Has anyone left a message for me?* Ніхто нічога мне не пакідаў?; **leave smb./smth. alone** пакіда́ць каго́-н./што-н. у спако́і, не турбава́ць, не чапа́ць; *You’d better leave him alone.* Лепш пакінь яго ў спакоі, не турбуй яго; *Leave my things alone!* Не чапай мае рэчы! **4.** забыва́ць; забыва́цца; *I’ve left the key at home.* Я забыў ключ дома. **5. : be left** застава́цца; *She was left a widow.* Яна засталася ўдавой; *How much money is there left?* Колькі грошай засталося?

**leave behind** [ˌliːvbɪˈhaɪnd] *phr.v.* **1.** абганя́ць, пераганя́ць (*каго-н./што-н.*); *We left him far behind.* Мы пакінулі яго далёка ззаду. **2. : be left behind** адстава́ць; *She got left behind with her maths.* Яна адстала па матэматыцы.

**leave off** [ˌliːvˈɒf] *phr.v. infml* перастава́ць, спыня́цца (*рабіць што-н.*); *The rain would not leave off.* Дождж ніяк не спыняўся/не пераставаў; *Where did we leave off?* На чым мы спыніліся?

**leave out** [ˌliːvˈaʊt] *phr.v.* прапусці́ць, не ўключа́ць (*каго-н./што-н. у групу, у спіс і да т.п.*); *You’ve left out a letter in the last word.* Ты прапусціў літару ў апошнім слове.

**leaves** [liːvz] *pl.* → **leaf**

**Lebanese**[1] [ˌlebəˈniːz] *n.* ліва́нец; ліва́нка; **the Lebanese** ліва́нцы

**Lebanese**[2] [ˌlebəˈniːz] *adj.* ліва́нскі

**lecher** [ˈletʃə] *n.* распу́снік

**lecherous** [ˈletʃərəs] *adj.* распу́сны

**lechery** [ˈletʃəri] *n.* распу́ста

**lecture**[1] [ˈlektʃə] *n.* **(on/about) 1.** ле́кцыя; **a lecture on ancient Rome by Professor Parker** ле́кцыя прафе́сара Па́ркера аб старажы́тным Ры́ме; **attend a lecture** слу́хаць/праслу́хаць ле́кцыю; **give a lecture** чыта́ць ле́кцыю **2.** ната́цыя, настаўле́нне

**lecture**[2] [ˈlektʃə] *v.* **(about/on) 1.** чыта́ць ле́кцыі **2.** чыта́ць ната́цыі, настаўле́нні

**lecturer** [ˈlektʃərə] *n.* ле́ктар, дакла́дчык, вы-кла́дчык (*ва ўніверсітэце*)

**led** [led] *past, p.p.* → **lead**[2]

**ledge** [ledʒ] *n.* пла́нка; палі́чка

**ledger** [ˈledʒə] *n.* гросбу́х, (гало́ўная) улі́ковая кні́га

**lee** [liː] *n.* укры́цце (*ад ветру, непагоды*)

**leech** [liːtʃ] *n.* **1.** п’я́ўка **2.** крывапі́вец; крывасмо́к (*пра чалавека*) ♦ **like a leech** як п’я́ўка

**leek** [liːk] *n.* цыбу́ля-пар́эй

**leer** [lɪə] *v.* **(at)** ухмыля́цца; глядзе́ць пажа́дліва, юрлі́ва

**leery** [ˈlɪəri] *adj. infml* **(of)** недаве́рлівы, падазро́ны

**lees** [liːz] *n. pl.* аса́дак (*віна ў бутэльцы або бочцы*); **drink/drain to the lees** вы́піць да дна

**left**[1] [left] *n.* **1.** ле́вы бок/накіру́нак; *In Britain cars drive on the left.* У Вялікабрытаніі левастаронні рух; **from the left** зле́ва; **to the left** нале́ва; **on/to my left** зле́ва ад мяне́ **2. the left/the Left** *pl.* ле́выя (*у палітыцы*)

**left**[2] [left] *adj.* ле́вы; **left hand/glove** ле́вая рука́/пальча́тка; **left side/turn** ле́вы бок/паваро́т; *Take a left turn at the crossroads.* На скрыжаванні зрабіце левы паварот.

**left**[3] [left] *adv.* зле́ва, нале́ва; *Turn left at the crossroads.* На скрыжаванні павярніце налева.

**left**[4] [left] *past, p.p.* → **leave**[2]

**left-handed** [ˌleftˈhændɪd] *adj.* які́ карыста́ецца ў асно́ўным ле́вай руко́й; **a left-handed person** ляўша́; ляўшу́н

**left-hander** [ˌleftˈhændə] *n.* ляўша́; ляўшу́н

**leftist**[1] [ˈleftɪst] *n.* той, хто прытры́мліваецца ў палі́тыцы ле́вых по́глядаў; ся́бра ле́вай па́ртыі; лява́к

**leftist**[2] [ˈleftɪst] *adj.* ле́вы (*у палітыцы*)

**left-luggage office** [ˌleftˈlʌgɪdʒˌɒfɪs] *n.* (*таксама* **left luggage**) *BrE* ка́мера захо́ўвання (*на станцыі, у аэрапорце і да т.п.*)

**leftover** [ˈleftəʊvə] *n.* **1.** *pl.* **leftovers** рэ́шткі (*яды*); *Give the leftovers to the dog.* Аддай рэшткі яды сабаку. **2.** перажы́так; след

**left wing** [ˌleftˈwɪŋ] *n.* ле́вае крыло́ (*у палітыцы*); *He’s on the left wing of the party.* Ён належыць да левага крыла партыі.

**left-winger** [ˌleftˈwɪŋə] *n.* той, хто нале́жыць да ле́вага крыла́ па́ртыі

**lefty, leftie** [ˈlefti] *n. infml* **1.** ле́вы, чалаве́к з ле́вымі по́глядамі; лява́к (*неадабральна*) **2.** ляўша́

**leg** [leg] *n.* **1.** нага́; ла́па, ла́пка **2.** но́жка (*мэблі*) **3.** кало́ша, калашына́ **4.** эта́п, ча́стка даро́гі або́ маршру́ту **5.** *sport* тур, круг, эта́п (*у эстафеце*) ♦ **not have a leg to stand on** *infml* не мець магчы́масці даказа́ць што-н.; **pull smb.’s leg** *infml* дуры́ць каго́-н.; **be on its last legs** *infml* кана́ць; дайсці́ да ру́чкі

**legacy** [ˈlegəsi] *n.* **(of)** спа́дчына

**legal** [ˈliːgəl] *adj.* **1.** юрыды́чны; **the British legal system** брыта́нская юрыды́чная сістэ́ма;

**a legal adviser** юрыско́нсульт **2.** лега́льны; зако́нны; дазво́лены зако́нам **3.** судо́вы; **take legal action** падава́ць у суд, узбуджа́ць судо́вую спра́ву

**legality** [lɪˈgæləti] *n.* зако́ннасць; лега́льнасць

**legalize,** *BrE* **-ise** [ˈliːgəlaɪz] *v.* легалізава́ць; узако́ніць

**legally** [ˈliːgəli] *adv.* лега́льна, зако́нна; на падста́ве зако́ну

**legend** [ˈledʒənd] *n.* **1.** леге́нда, пада́нне **2.** легенда́рная асо́ба

**legendary** [ˈledʒəndəri] *adj.* легенда́рны

**leggy** [ˈlegi] *adj.* *infml* даўгано́гі (*звыч. пра жанчын*)

**legible** [ˈledʒəbl] *adj.* разбо́рлівы, выра́зны, чытэ́льны; *My handwriting isn't very legible.* Мой почырк не вельмі разборлівы.

**legibly** [ˈledʒəbli] *adv.* разбо́рліва, выра́зна

**legion** [ˈliːdʒən] *n.* **1.** легіён **2.** *fml* вялі́кае мно́ства, легіён; *Their name is legion.* Імя ім – легіён.

**legislate** [ˈledʒɪsleɪt] *v.* **(against, for, on)** *fml* выдава́ць зако́ны; **legislate against gambling** забарані́ць зако́нам аза́ртныя гу́льні

**legislation** [ˌledʒɪsˈleɪʃn] *n. fml* заканада́ўства

**legislative** [ˈledʒɪslətɪv] *adj. fml* заканада́ўчы

**legislator** [ˈledʒɪsleɪtə] *n. fml* заканада́вец, заканада́ўца

**legislature** [ˈledʒɪsleɪtʃə] *n. fml* заканада́ўчы о́рган; заканада́ўчая ўла́да

**legitimate** [lɪˈdʒɪtɪmət] *adj.* **1.** зако́нны; дазво́лены зако́нам **2.** абгрунтава́ны; пра́вільны **3.** законнанаро́джаны; **a legitimate child** законнанаро́джанае дзіця́

**legitimize,** *BrE* **-ise** [lɪˈdʒɪtəmaɪz] *v.* *fml* узако́ніць, прызна́ць зако́нным; апраўда́ць (*асабліва што-н. несправядлівае або амаральнае*)

**leisure** [ˈleʒə] *n.* во́льны час; **at (your) leisure** без спе́шкі, калі́ вам зру́чна; *In her leisure time she visits museums*. У вольны час яна наведвае музеі; **the leisure industry** інду́стрыя адпачы́нку

**leisurely**[1] [ˈleʒəli] *adj.* паво́льны; спако́йны, няспе́шны; **at a leisurely pace** паво́льна, паво́льным кро́кам

**leisurely**[2] [ˈleʒəli] *adv.* паво́льна; спако́йна, няспе́шна; *The ship sailed leisurely.* Карабель павольна паплыў.

**lemon** [ˈlemən] *n.* **1.** лімо́н (*дрэва і плод*) **2.** лімо́нны ко́лер **3.** *infml* дрэнь, барахло́ **4.** *infml* права́л, няўда́ча **5.** *BrE* ду́рань

**lemonade** [ˌleməˈneɪd] *n.* **1.** ліма́над, сітро́ **2.** лімо́нны сок з вадо́й і цу́крам

**lend** [lend] *v.* **(lent) 1.** пазыча́ць (*каму-н.*); дава́ць на пэ́ўны тэ́рмін; *Can you lend me $20?* Ты можаш пазычыць мне 20 долараў?; *Will you lend me the book till Tuesday?* Калі ласка, дай мне гэтую кнігу да аўторка. **2.** ака́зваць падтры́мку, дапамо́гу **3.** надава́ць пэ́ўную я́касць; *Facts lend probability to the theory.* Факты робяць гэтую тэорыю больш верагоднай. ♦ **lend a hand** *infml* дапамага́ць; **lend an ear (to smb.)** слу́хаць, выслу́хваць (каго-н.)

**lender** [ˈlendə] *n.* **1.** *finance* крэдыто́р **2.** ліхвя́р

**lending library** [ˈlendɪŋˌlaɪbrəri] *n.* бібліятэ́ка з вы́дачай кніг на дом

**length** [leŋθ] *n.* **1.** даўжыня́; **5 metres in length** 5 ме́траў у даўжыню́ **2.** працяглась; *Films of this length are pretty rare*. Фільмы такой працягласці даволі рэдкія. ♦ **at length** 1) падрабя́зна; *We've discussed the subject at length previously.* Мы падрабязна абмеркавалі гэтую тэму раней. 2) *lit.* нарэ́шце, урэ́шце

**lengthen** [ˈleŋθən] *v.* падо́ўжыць; падо́ўжыцца

**lengthy** [ˈleŋθi] *adj.* (празме́рна) до́ўгі, расця́гнуты; працяглы

**lenient** [ˈliːniənt] *adj.* мя́ккі; пабла́жлівы, нястро́гі; **a very lenient sentence** ве́льмі мя́ккі прысу́д

**lens** [lenz] *n.* **1.** лі́нза; аб'екты́ў; лу́па **2.** *anat.* хруста́лік (*вока*)

**Lent** [lent] *n.* Вялі́кі Пост (*перад Вялікаднем*); **Lent term** вясе́нні трыме́стр (*у некаторых універсітэтах*)

**lent** [lent] *past, p.p.* → **lend**

**lentil** [ˈlentɪl] *n.* сачаві́ца, сачы́ўка; **lentil soup** сачаві́чная по́ліўка

**Leo** [ˈliːəʊ] *n.* **1.** *astron.* Леў (*сузор'е*) **2.** *astrol.* Леў (*знак задыяка*; *чалавек, які нарадзіўся пад гэтым знакам*)

**leopard** [ˈlepəd] *n.* леапа́рд ♦ **a leopard cannot change its spots** ≅ гарба́тага магі́ла вы́правіць

**leper** [ˈlepə] *n.* **1.** пракажо́ны; пракажо́ная **2.** па́рыя; чалаве́к, яко́га ўсе пазбяга́юць, цура́юцца

**leprosy** [ˈleprəsi] *n. med.* прака́за

**lesbian**[1] [ˈlezbiən] *n.* лесбія́нка

**lesbian**[2] [ˈlezbiən] *adj.* лесбі́йскі

**lesion** [ˈliːʒn] *n. med.* ле́зія, пашко́джанне (*органа, тканкі*); **skin lesion** пашко́джанне ску́ры

**less**[1] [les] *adj.* (*выш. ст. ад* **little**) ме́ншы, менш; **less water/salt/attention** менш вады́/со́лі/ува́гі; **a bit/a little less** крыху́ менш; **far/much/a lot less** зна́чна менш

**less**[2] [les] *adv.* (*выш. ст. ад* **little**) менш, ме́ней; *You ought to smoke less*. Вам трэба менш курыць/паліць; **less interesting/serious** менш

цікáвы/сур'ёзны ♦ **less and less** усё мéней і мéней; **none the less** тым не менш

**less³** [les] *prep.* без, мíнус; *He got $5,000 less tax.* Ён атрымаў 5 тысяч долараў мінус падатак.

**lessen** [ˈlesn] *v.* змяншáць; змяншáцца

**lesser** [ˈlesə] *adj.* мéншы, малы́, нязнáчны; **to a lesser extent/degree** у мéншай ступéні; **lesser known poets/works** мéней вядóмыя паэ́ты/твóры ♦ **the lesser of two evils/the lesser evil** мéншая з дзвюх бед; **of two evils choose the lesser** з дзвюх бед выбірáй мéншую

**lesson** [ˈlesn] *n.* **1. (in, on)** урóк, заня́ткі; **an English lesson** урóк англíйскай мóвы; **a lesson in maths** урóк матэмáтыкі; **take/give lessons** браць/давáць урóкі **2.** урóк, перасцярóга, перасцераж́энне; **teach smb. a lesson** правучы́ць кагó-н.; *Let that be a lesson to you.* Няхай гэта будзе для вас урокам.

**lest** [lest] *conj. fml* (*уводзіць дадаяныя сказы, змест якіх азначае што-н. непажаданае*) каб... не; *I was afraid lest they should find me.* Я баяўся, каб яны не знайшлі мяне.

**let** [let] *v.* **(let) 1.** дазваля́ць; *Let me help you.* Дазвольце мне дапамагчы вам; *He won't let me work.* Ён не дае мне працаваць; *Let go* (*of*) *my hand.* Адпусціце маю руку. **2. : let smb. know** паведамля́ць камý-н. **3. :** (*дапаможны дзеясл. у загадным ладзе*); **let's go!** хадзéмце!; **let's hope** бýдзем спадзявáцца **4.** здавáць унáймы/унаём; *They let a room.* Яны здаюць пакой. ♦ **let alone** пакідáць у спакóі; **let fall/slip** прагаварыı́цца; **let me see** пачакáйце, дáйце падýмаць

**let down** [ˌletˈdaʊn] *phr.v.* **1.** падвóдзіць; *I was badly let down.* Мяне здорава падвялі. **2.** спускáць; **let down tyres** спускáць шы́ны ♦ **let the side down** *infml* падвóдзіць сваíх

**let in** [ˌletˈɪn] *phr.v.* упускáць; прапускáць; *He let himself in*. Ён сам адчыніў дзверы і ўвайшоў; *These old shoes let the water in.* Гэтыя старыя туфлі працякаюць.

**let off** [ˌletˈɒf] *phr.v.* **1.** выпускáць; *Let me off at the next stop.* Ссадзіце/высадзіце мяне на наступным прыпынку. **2.** даравáць, не карáць; *They left him off his debt.* Яны даравалі яму доўг.

**let out** [ˌletˈaʊt] *phr.v.* выпускáць; **let the water out of the bath** выпускáць вадý з вáнны; **let out the sleeves** выпускáць рукавы́; **let out a secret** прагаварыı́цца

**let up** [ˌletˈʌp] *phr.v.* **1.** слабéць **2.** прыпыня́цца **3.** перадыхáць; *He never lets up in his work.* Ён працуе без перадышкі.

**lethal** [ˈliːθl] *adj.* смяртэ́льны, смярóтны, лятáльны; **a lethal dose** смяртэ́льная дóза

**lethargic** [ləˈθɑːdʒɪk] *adj.* вя́лы, апаты́чны

**lethargy** [ˈleθədʒi] *n.* вя́ласць, апáтыя

**let's** [lets] *infml* (*скар. ад* **let us**); **Let's go!** Пóйдзем!; Хадзéмце!

**Lett** [let] *n.* латы́ш; латы́шка; **the Letts** латышы́

**letter** [ˈletə] *n.* **1.** пісьмó, ліст; **a registered letter** заказнóе пісьмó; **a letter of introduction** рэкамендацы́йнае пісьмó; **a letter of credit** акрэдыты́ў; **post a letter** *BrE/***mail a letter** *AmE* паслáць ліст **2.** лíтара; **a capital letter** вялíкая лíтара; **a small letter** малáя лíтара; **3.** *pl.* **letters** *infml* літаратýра; **a man of letters** літарáтар ♦ **to the letter** літарáльна, даклáдна; *I followed the instructions to the letter.* Я дакладна прытрымліваўся інструкцыі.

**letter bomb** [ˈletəˌbɒm] *n.* бóмба ў канвéрце

**letterbox** [ˈletəbɒks] *n.* паштóвая скры́нка

**Lettish¹** [ˈletɪʃ] *n.* латы́шская мóва

**Lettish²** [ˈletɪʃ] *adj.* латы́шскі

**lettuce** [ˈletɪs] *n.* салáт(а) (*раслíна*)

**let-up** [ˈletʌp] *n.* перапы́нак; перады́шка, перады́х; *We were working 7 days a week with no let-up.* Мы працавалі 7 дзён у тыдзень без перапынку.

**leukaemia** [luːˈkiːmiə] *n. BrE, med.* лейкемíя, лейкóз, белакрóўе

**leukemia** [luːˈkiːmiə] *AmE* = **leukaemia**

**level¹** [ˈlevl] *n.* **1.** узрóвень; **a high/low level** высóкі/нíзкі ўзрóвень; **the level of inflation/radiation** узрóвень інфля́цыі/радыя́цыі; **at eye level** на ўзрóўні вачэ́й; **be on a level with** быць на адны́м узрóўні з **2.** раўнíна **3.** *tech.* ватэрпáс, узрóвень, грунтвáга ♦ **on the level** *infml* сумлéнна, праўдзíва; *Is it on the level?* Гэта праўда?

**level²** [ˈlevl] *adj.* **1.** рóўны; плóскі; гарызантáльны; **a level surface** плóская павéрхня **2.** рóўны; **be level with** быць аднóлькавай вышынí, аднóлькавага ўзрóўню; *The river was level with the banks.* Рака была ўровень з берагамі. **3.** рóўны, спакóйны; ураўнавáжаны; **a level voice** рóўны, спакóйны гóлас; **keep a level head** заставáцца спакóйным, не панікавáць

**level³** [ˈlevl] *v.* **1.** раўня́ць, выраўнóўваць; заглáджваць; **level a road** раўня́ць дарóгу **2.** зраўнóўваць, руйнавáць з зямлёй, пóўнасцю разбурáць; *The storm levelled a part of the town.* Бура поўнасцю разбурыла частку горада.

**level at** [ˌlevlˈæt] *phr.v.* нацэ́львацца, прыцэ́львацца; **level a charge/criticism at/against** абвінавáчваць/крытыкавáць; *He levelled bitter criticism against the government.* Ён жорстка крытыкаваў урад.

**MC** [ˌemˈsiː] *n.* **1.** (*скар. ад* **Master of Ceremonies**) канферансье́ **2.** *AmE* (*пісьмовае скар. ад* **Member of Congress**) кангрэсме́н

**McCoy** [məˈkɔɪ] *n.* **:** ♦ **the real McCoy** *infml* сапра́ўдны, не іміта́цыя або́ падро́бка (*асабліва пра што-н. каштоўнае*)

**MD** [ˌemˈdiː] *n.* **1.** (*скар. ад* **Doctor of Medicine**) до́ктар медыцы́ны **2.** *BrE* (*скар. ад* **managing director)** выкана́ўчы дырэ́ктар

**me** [miː, mi] *pron.* мяне́, мне, мной, я; *Give me that book.* Дай мне тую кніжку; *He's two years younger than me.* Ён на два гады маладзейшы за мяне; *Mary and me are off to London.* Мэры і я едзем у Лондан.

**meadow** [ˈmedəʊ] *n.* луг

**meager** [ˈmiːgə] *AmE* = **meagre**

**meagre** [ˈmiːgə] *adj. BrE* малы́, недастатко́вы; **meagre wages** мала́я зарпла́та; **a meagre diet** недастатко́вае харчава́нне

**meal** [miːl] *n.* яда́ (*снеданне, абед або вячэра*); *We have three meals a day.* Мы ядзім тры разы ў/на дзень; **go out for a meal** пайсці́ ў рэстара́н або́ кафэ́ ♦ **make a meal of** *infml* патра́ціць бо́лей ча́су і намага́нняў (*на што-н.*), чым неабхо́дна

**mean[1]** [miːn] *n.* **: the mean** сярэ́дняя велічыня́, ко́лькасць, лі́чба і да т.п. ♦ **the golden mean** залата́я сярэ́дзіна

**mean[2]** [miːn] *adj.* сярэ́дні; **the mean rate of consumption** сярэ́дняя велічыня́/ко́лькасць спажыва́ння

**mean[3]** [miːn] *adj.* **1. (to)** нядо́бры, благі́, по́длы; *Don't be so mean to me!* Не будзь такім нядобрым да мяне. **2. (with)** *BrE* скупы́; *She has always been mean with money.* Яна заўсёды была скупая на грошы. **3.** *AmE* зло́сны, злы; *Be careful, that's a mean dog.* Будзь асцярожным, гэты сабака злы. **4.** бе́дны і бру́дны (*пра месца*) **5.** *AmE, infml* выда́тны, спры́тны **6.** пасрэ́дны ♦ **be no mean athlete/performer** быць выда́тным/спры́тным спартсме́нам/выкана́ўцам

**mean[4]** [miːn] *v.* **(meant) 1.** азнача́ць, зна́чыць, мець значэ́нне; *What does this sign mean?* Што азначае гэты знак? **2.** мець на ўва́зе; *Do you mean me?* Вы маеце на ўвазе мяне? **3.** хаце́ць; мець наме́р, наме́рвацца (*што-н. сказаць, зрабіць і да т.п.*); *What do you mean (by that)?* Што вы хочаце (гэтым) сказаць?; *You don't mean it!* Няўжо? Вы гаворыце гэта сур'ёзна?; *I didn't mean to offend you.* Я не хацеў вас пакрыўдзіць. **4.** прызнача́ць; *This present is meant for you.* Гэты падарунак прызначаны для вас.

**meander** [miˈændə] *v.* **1.** ві́цца (*пра рэчку, дарогу*) **2.** бадзя́цца, вандрава́ць (*без мэты*) **3.** гавары́ць бязла́дна

**meaning** [ˈmiːnɪŋ] *n.* **(of) 1.** значэ́нне, сэнс; *This word has several meanings in English.* У англійскай мове гэтае слова мае некалькі значэнняў; **get/catch/understand smb.'s meaning** зразуме́ць каго́-н. **2.** ідэ́я, сэнс (*кнігі, фільма і да т.п.*) **3.** *infml* мэ́та, сэнс (*жыцця, працы*)

**meaningful** [ˈmiːnɪŋfəl] *adj.* **1.** які́ ма́е сэнс; **a meaningful look/smile** выра́зны по́зірк/выра́зная ўсме́шка **2.** сур'ёзны; ва́жны; кары́сны

**meaningfully** [ˈmiːnɪŋfəli] *adv.* **1.** сур'ёзна; выра́зна **2.** зна́чна, у зна́чнай ступе́ні

**meaningless** [ˈmiːnɪŋləs] *adj.* бяссэ́нсавы, бессэнсо́ўны

**meanness** [ˈmiːnnəs] *n.* **1.** по́дласць, ні́засць **2.** ску́пасць **3.** пасрэ́днасць; убо́ства **4.** бе́днасць

**means** [miːnz] *n.* (*pl.* **means**) **1. (of)** ме́тад; сро́дак; сістэ́ма; *That's the most effective means of advertising.* Гэта самы эфектыўны спосаб/сродак рэкламы; **a means of transport** *BrE* тра́нспартныя сро́дкі, тра́нспарт; **by honest/fair means** чэ́сным, добрасумле́нным/справядлі́вым шляха́м **2.** *pl.* **means** гро́шы; дахо́д; **beyond your means** (кашту́е) больш, чым вы мо́жаце сабе́ дазво́ліць; **within your means** (кашту́е) сто́лькі, што вы мо́жаце сабе́ дазво́ліць; **a man/woman of means** *fml* багатая, замо́жная асо́ба, асо́ба са сро́дкамі **3. : the means of production** *econ.* сро́дкі вытвó́рчасці ♦ **by all means** абавязко́ва, зразуме́ла; *Can I call you later? – By all means.* Магу я патэлефанаваць вам пазней? – Абавязкова; **by means of** *fml* шля́хам, ме́тадам; **by no means/not by any means** ні ў я́кім ра́зе, зусі́м не (так); *He is not a bad man, by any means.* Ён зусім не дрэнны чалавек.

**meant** [ment] *past, p.p.* → **mean[4]**

**meantime** [ˈmiːntaɪm] *adv.* **:** ♦ **(in the) meantime** гэ́тым/тым ча́сам, у гэ́ты/той праме́жак ча́су (*паміж дзвюма падзеямі*); **for the meantime** *BrE* паку́ль (што), да таго́ ча́су; *John will be here in a couple of hours. For the meantime have a bit of rest.* Джон будзе тут праз гадзіну-другую. Да таго часу адпачні крышку.

**meanwhile** [ˈmiːnwaɪl] *n., adv.* **1. : (in the) meanwhile** тым ча́сам, у гэ́ты/той праме́жак ча́су (*паміж дзвюма падзеямі*) **2. :** *My earnings fell. Meanwhile the prices went up by 10%.* Мой заробак паменшыўся, тады як цэны ўзняліся на 10%.

**measles** [ˈmiːzlz] *n. med.* адзёр

**measure¹** [ˈmeʒə] *n.* **1.** ме́ра, крок; **take drastic measures** прыма́ць суро́выя ме́ры **2.** ме́ра, паме́р; **in full measure** *fml* по́ўнасцю **3.** ступе́нь **4.** ме́рка; адзі́нка; *A centimetre is a measure of length.* Сантыметр – адзінка (мера) даўжыні. **5.** *mus.* такт ♦ **beyond measure** *fml* ве́льмі вялі́кі або́ ве́льмі мно́га; **made to measure** *BrE* зро́блены на зака́з; **in a/some measure** у пэ́ўнай ступе́ні; **in large measure** у вялі́кай ступе́ні

**measure²** [ˈmeʒə] *v.* **1.** вымяра́ць; **an instrument for measuring electrical current** інструме́нт для вымярэ́ння электры́чнага то́ку **2.** ацэ́ньваць; *What criteria can we use to measure the progress in this field?* Якімі крытэрыямі мы можам ацаніць прагрэс у гэтай галіне? **3.** мець паме́ры, велічыню́; *The room measures 16 by 12 feet.* Пакой мае памеры 16 на 12 футаў.

**measure out** [ˌmeʒərˈaʊt] *phr.v.* адмяра́ць (*ад большай колькасці*); *Measure out 50 grams of sugar.* Адмерай(це) 50 грамаў цукру.

**measurement** [ˈmeʒəmənt] *n.* **1.** *звыч. pl.* **measurements** паме́ры (*даўжыня, вышыня і да т.п.*); **make/take measurements** вымяра́ць; *What are your waist measurements?* Які памер вашай таліі? **2.** вымярэ́нне

**meat** [miːt] *n.* **1.** мя́са; **meat and drink** стра́вы і напо́і **2. (of)** су́тнасць, што-н. ціка́вае або́ ва́жнае (*у размове, кніжцы і да т.п.*); **the meat of the story** су́тнасць апавяда́ння; **meat and potatoes** *AmE, infml* са́мая ва́жная ча́стка дыску́сіі ♦ **meat and drink to smb.** то́е, што падаба́ецца або́ лёгка дае́цца каму́-н.; **easy meat** той, яко́га лёгка падману́ць

**Mecca** [ˈmekə] *n.* **1.** Ме́кка (*горад*) **2. mecca (for)** ме́кка, ме́сца пало́мніцтва; *Florence is a mecca for students of Art History.* Фларэнцыя – месца паломніцтва для тых, хто вывучае гісторыю мастацтва.

**mechanic** [məˈkænɪk] *n.* меха́нік

**mechanical** [məˈkænɪkl] *adj.* **1.** механі́чны (*таксама перан.*); **a mechanical reaction** механі́чная рэа́кцыя **2.** фізі́чны; **the mechanical properties of gases** фізі́чныя я́касці га́заў

**mechanically** [məˈkænɪkli] *adv.* **1.** механі́чна, аўтаматы́чна **2.** машына́льна

**mechanics** [məˈkænɪks] *n.* меха́ніка; **applied mechanics** прыкладна́я меха́ніка; **the mechanics of (doing) smth.** спо́саб дзе́яння (чаго́-н.); тэ́хніка выкана́ння

**mechanism** [ˈmekənɪzm] *n.* механі́зм (*у розных знач.*)

**mechanize,** *BrE* **-ise** [ˈmekənaɪz] *v.* механізава́ць

**medal** [ˈmedl] *n.* **1.** меда́ль; **an Olympic gold medal** алімпі́йскі залаты́ меда́ль **2.** *mil.* о́рдэн

**medalist** [ˈmedəlɪst] *AmE* = **medallist**

**medallist** [ˈmedəlɪst] *n. BrE* медалі́ст; медалі́стка

**meddle** [ˈmedl] *v.* **1. (in/with)** уме́швацца; *I wish you wouldn't meddle in my affairs.* Калі ласка, не ўмешвайся ў мае справы. **2. (with)** (*неасцярожна*) чапа́ць што-н.

**media¹** [ˈmiːdiə] *n.* **the media** сро́дкі ма́савай інфарма́цыі, СМІ; **media coverage** асвятле́нне ў СМІ (*якой-н. падзеі*); *The media have launched a bitter attack on the Minister of Education.* Сродкі масавай інфармацыі распачалі жорсткую атаку на міністра адукацыі.

**media²** [ˈmiːdiə] *pl.* → **medium¹**

**mediaeval** [ˌmediˈiːvl] *adj.* = **medieval**

**mediate** [ˈmiːdieɪt] *v.* **1.** *fml* уплыва́ць; *Child mortality is mediated by economic factors.* Эканамічныя фактары ўплываюць на дзіцячую смяротнасць. **2. (between)** міры́ць (*двух людзей або дзве групы*); ула́джваць (*сварку і да т.п.*)

**medic** [ˈmedɪk] *n. infml* **1.** до́ктар **2.** студэ́нтме́дык

**medical¹** [ˈmedɪkl] *n.* (*таксама* **medical examination**) медыцы́нскі агля́д

**medical²** [ˈmedɪkl] *adj.* медыцы́нскі, меды́чны; **a medical college** медыцы́нскае вучы́лішча; *The disease required urgent medical attention.* Хвароба патрабавала неадкладнага медыцынскага ўмяшання.

**medication** [ˌmedɪˈkeɪʃn] *n.* ле́кі, ляка́рствы; медыкаме́нты; **be on medication** лячы́цца, прыма́ць ляка́рствы

**medicinal** [məˈdɪsɪnl] *adj.* лячэ́бны; **medicinal properties** лячэ́бныя я́касці; **medicinal herbs** ле́кавыя раслі́ны

**medicine** [ˈmedsn] *n.* **1.** медыцы́на; **study medicine** вывуча́ць медыцы́ну **2.** ляка́рства (*асабліва якое п'юць*); **take medicine** прыма́ць/піць ляка́рства ♦ **take one's medicine (like a man)** прыма́ць непрые́мную сітуа́цыю/пакара́нне без ска́ргаў

**medieval** [ˌmediˈiːvl] *adj.* **1.** сярэдневяко́вы, сярэдняве́чны; **medieval literature** сярэдневяко́вая літарату́ра **2.** *joc.* ве́льмі стары́ або́ старамо́дны

**mediocre** [ˌmiːdiˈəʊkə] *adj.* пасрэ́дны; **a mediocre student/film** пасрэ́дны студэ́нт/фільм

**mediocrity** [ˌmiːdiˈɒkrəti] *n.* пасрэ́днасць

**meditate** [ˈmedɪteɪt] *v.* **1.** быць у ста́не медыта́цыі **2. (on/upon)** сур'ёзна заду́мвацца (*аб чым-н.*) **3.** *fml* замышля́ць (*што-н. дрэннае*)

**meditation** [ˌmedɪˈteɪʃn] *n.* **1.** медыта́цыя **2.** (глыбо́кі, сур'ёзны) ро́здум

**medium¹** [ˈmiːdiəm] *n.* (*pl.* **media, mediums**) **1.** (*pl.* **media**) сро́дак камуніка́цыі (*газеты, тэлебачанне і да т.п.*) **2. (for)** сро́дак перада́чы ідэ́й (*пра мастацкія творы*); **a medium of instruction** мо́ва выклада́ння **3.** (*pl.* **mediums**) ме́дыум

**medium²** [ˈmiːdiəm] *adj.* сярэ́дні (*пра памер, рост і да т.п.*); **of medium height/length** сярэ́дняй вышыні́/даўжыні́; **of medium size** сярэ́дніх паме́раў

**medium-sized** [ˌmiːdiəmˈsaɪzd] *adj.* сярэ́дніх паме́раў

**medley** [ˈmedli] *n.* **1.** мешані́на, су́месь ро́зных рэ́чаў; **a medley of architectural styles** мешані́на ро́зных архітэкту́рных сты́ляў **2.** *mus.* папуры́ **3.** *sport* камбінава́ная эстафе́та (*у плаванні*)

**meek** [miːk] *adj.* мя́ккі; пако́рлівы; **meek and mild** надзвы́чай спако́йны і мя́ккі

**meet** [miːt] *v.* **(met) 1.** сустрака́ць, сустрака́цца; *Meet me at 6.00.* Сустракай мяне ў 6.00. **2.** спатка́ць, сустрэ́ць каго́-н. упершыню́, пазнаёміцца; *He met his wife at university.* Ён пазнаёміўся з жонкай ва ўніверсітэце; *Pleased to meet you. BrE Nice meeting you. AmE* Рады пазнаёміцца з вамі. **3.** збіра́цца; засяда́ць (*пра камітэт, групу і да т.п.*); *Our committee meets once a month.* Наш камітэт збіраецца раз на месяц. **4. : meet a demand/need/requirement** задавальня́ць патрабава́нне/неабхо́днасць **5. : meet debts/expenses/costs** вы́плаціць запазы́чанасць/выда́ткі/кошт

**meeting** [ˈmiːtɪŋ] *n.* **1.** сход; **hold a meeting** право́дзіць сход; **attend a meeting** прысу́тнічаць на схо́дзе; **be in/at a meeting** быць на схо́дзе **2.** сустрэ́ча; *I'll never forget our first meeting.* Ніколі не забуду нашу першую сустрэчу. **3.** *sport* спабо́рніцтва, сустрэ́ча

**megabyte** [ˈmegəbaɪt] *n. comput.* мегаба́йт

**melancholy¹** [ˈmelənkəli] *n. fml* меланхо́лія, сум

**melancholy²** [ˈmelənkəli] *adj.* меланхалі́чны, су́мны

**mellow** [ˈmeləʊ] *adj.* **1.** мя́ккі, цёплы (*пра колер, гук і да т.п.*) **2.** *infml* мя́ккі, спако́йны, спачува́льны, дабраду́шны

**melodic** [məˈlɒdɪk] *adj.* мелады́чны

**melodrama** [ˈmeləʊˌdrɑːmə] *n.* меладра́ма

**melodramatic** [ˌmeləʊdrəˈmætɪk] *adj.* меладраматы́чны

**melody** [ˈmelədi] *n.* мело́дыя

**melon** [ˈmelən] *n.* ды́ня

**melt** [melt] *v.* **1.** та́яць, растава́ць; *The snow has melted.* Снег растаў. **2.** растапля́ць, расто́пліваць; *Melt the butter.* Растапі масла. **3.** змякча́ць; змякча́цца (*перан.*); *His heart melted when he saw her tears.* Яго сэрца памякчэла, калі ён убачыў яе слёзы.

**melt away** [ˌmeltəˈweɪ] *phr.v.* паступо́ва зніка́ць

**member** [ˈmembə] *n.* **1.** член, ся́бра (*клуба, групы, арганізацыі*); **club/union/party members** чле́ны клу́ба/прафсаю́за/па́ртыі; **UN member states/countries** кра́іны – чле́ны ААН; **a full member** паўнапра́ўны член **2.** прадстаўні́к (*групы людзей, жывёл*); *The lion is a member of the cat family.* Леў – прадстаўнік сям'і кацiных; **a member of staff** супрацо́ўнік (*фірмы, кампаніі і да т.п.*)

**Member of Parliament** [ˌmembərəvˈpɑːləmənt] *n.* член парла́мента

**membership** [ˈmembəʃɪp] *n.* **1.** чле́нства; *I must renew my membership of the tennis club.* Я павінен узнавіць членства ў тэнісным клубе; **a membership card** чле́нская ка́ртка **2.** усе́ чле́ны (*клуба, арганізацыі і да т.п.*); *How did the membership vote?* Як прагаласавалі члены клуба/партыі? **3.** ко́лькасць чле́наў; *What is the membership of your organisation?* Колькі членаў у вашай арганізацыі?

**membrane** [ˈmembreɪn] *n.* мембра́на, перапо́нка

**memento** [məˈmentəʊ] *n.* (*pl.* **mementos**) **(of)** сувені́р, па́мятная рэч

**memo** [ˈmeməʊ] *n.* (*pl.* **memos**) каро́ткая запі́ска супрацо́ўніку (*той жа кампаніі або арганізацыі*)

**memoir** [ˈmemwɑː] *n.* **1.** *pl.* **memoirs** мему́ары, успамі́ны **2.** *fml* каро́ткі на́рыс, арты́кул (*аб кім-н. або чым-н. добра знаёмым для аўтара*)

**memorabilia** [ˌmemərəˈbɪliə] *n. pl.* кале́кцыя па́мятных рэ́чаў (*у сувязі з кім-н. або чым-н.*)

**memorable** [ˈmemərəbl] *adj.* **(for)** па́мятны (*вельмі прыемны, незвычайны*)

**memoranda** [ˌmeməˈrændə] *pl.* → **memorandum**

**memorandum** [ˌmeməˈrændəm] *n.* (*pl.* **memoranda** *or* **memorandums**) **1.** *fml* мемара́ндум; дыпламаты́чная но́та **2.** дакладна́я запі́ска; пісьмо́вая даве́дка

**memorial** [məˈmɔːriəl] *n.* **(to)** по́мнік

**Memorial Day** [məˈmɔːriəlˌdeɪ] *n.* Дзень па́мяці (*нацыянальнае свята ў ЗША, якое адзначаецца ў апошні панядзелак мая*)

**memorize,** *BrE* **-ise** [ˈmeməraɪz] *v.* запаміна́ць, зау́чваць (*словы, мелодыю і да т.п.*)

**memory** [ˈmeməri] *n.* **1.** па́мяць; **have a good/bad memory (for)** мець до́брую/дрэ́нную па́мяць (на); **have a short/long memory** ху́тка забыва́ць/до́ўга по́мніць; **lose one's memory** тра́ціць па́мяць; **do smth. from memory** рабіць што-н. па па́мяці; **within/in living memory** нако́лькі па́мятаюць (жывы́я) лю́дзі; **within smb.'s memory** пры чыёй-н. па́мяці, на па́мяці каго́-н. **2.** *звыч. pl.* **memories (of)** успамі́ны; **memories of the war** успамі́ны пра вайну́ **3.** *comput.* па́мяць ♦ **in memory of smb./to the memory of smb.** у па́мяць (*каго-н.*); **if (my) memory serves me well/correctly** калі́ па́мяць мяне́ не падво́дзіць

**men** [men] *pl.* → **man**

**menace**[1] [ˈmenəs] *n.* **(to)** пагро́за; **a menace to society** пагро́за грама́дству

**menace**[2] [ˈmenəs] *v.* пагража́ць

**menacing** [ˈmenəsɪŋ] *adj.* пагро́злівы, пагража́льны

**mend**[1] [mend] *n.* **: be on the mend** *infml* паляпша́цца; папраўля́цца; ачу́ньваць (*пасля хваробы*)

**mend**[2] [mend] *v.* **1.** *BrE* рамантава́ць, пра́віць **2.** зашыва́ць дзі́рку (*на адзенні*); цырава́ць **3.** *BrE, dated* папраўля́цца, ачу́ньваць (*пасля хваробы*) **4.** канча́ць сва́рку, выпраўля́ць сітуа́цыю ♦ **mend (one's) fences** стара́цца паміры́цца, палéпшыць адно́сіны

**meningitis** [ˌmenɪnˈdʒaɪtɪs] *n. med.* менінгі́т

**menopause** [ˈmenəpɔːz] *n. med.* менапа́ўза, клі́макс, клімактэ́рый

**menstrual** [ˈmenstruəl] *adj.* менструа́льны

**menstruate** [ˈmenstrueɪt] *v. fml* менструі́раваць

**menstruation** [ˌmenstruˈeɪʃn] *n. fml* менструа́цыя

**menswear** [ˈmenzweə] *n.* мужчы́нскае адзе́нне

**mental** [ˈmentl] *adj.* **1.** разумо́вы; **mental development** развіццё ро́зуму **2.** псіхі́чны, з хво́рай псі́хікай; **mental patients** псіхі́чныя хво́рыя **3.** псіхіятры́чны; **a mental hospital** псіхіятры́чная бальні́ца **4.** *BrE*, *slang* вар'я́цкі

**mentality** [menˈtæləti] *n.* менталітэ́т, мента́льнасць; разуме́нне, ста́ўленне

**mention**[1] [ˈmenʃn] *n.* **(of)** згáдванне, успаміна́нне; спасы́лка; **there's no mention (of)** ніч́ога не гаво́рыцца (пра); **make no mention (of)** нічо́га не сказа́ць (пра)

**mention**[2] [ˈmenʃn] *v.* успаміна́ць, згáдваць; **it's worth mentioning** ва́рта сказа́ць; **mentioned above** аб чым ішла́ гаво́рка вышэ́й ♦ **not to mention** не гаво́рачы/не ка́жучы ўжо пра; **don't mention it** *infml* калі́ ла́ска (*у адказ на падзяку*)

**mentor** [ˈmentɔː] *n. fml* наста́ўнік; дара́дчык, ме́нтар

**menu** [ˈmenjuː] *n.* **1.** меню́; *Is there any fish on the menu?* Ці ёсць у меню рыба? **2.** *comput.* меню́

**MEP** [ˌemiːˈpiː] *n.* (*pl.* **MEPs**) (*скар. ад* **Member of European Parliament**) член Еўрапе́йскага парла́мента

**mercantile** [ˈmɜːkəntaɪl] *adj. fml* гандлёвы; камерцы́йны

**mercenary** [ˈmɜːsənəri] *n.* наёмнік, наёмны жаўне́р

**merchandise** [ˈmɜːtʃəndaɪz] *n. fml* тава́ры

**merchandising** [ˈmɜːtʃəndaɪzɪŋ] *n.* мерчанда́йзінг, стымулява́нне про́дажу

**merchant** [ˈmɜːtʃənt] *n.* буйны́ гандля́р

**merchant bank** [ˌmɜːtʃəntˈbæŋk] *n.* камерцы́йны банк

**merciful** [ˈmɜːsɪfəl] *adj.* міласэ́рны

**mercifully** [ˈmɜːsɪfəli] *adv.* на шча́сце; *His sufferings were mercifully short.* Яго пакуты, на шчасце, працягваліся нядоўга.

**merciless** [ˈmɜːsɪləs] *adj.* жо́рсткі, неміласэ́рны

**Mercury** [ˈmɜːkjəri] *n. astron.* Мерку́рый (*планета*)

**mercury** [ˈmɜːkjəri] *n. chem.* ртуць

**mercy** [ˈmɜːsi] *n.* жа́ласць, спага́да; міласэ́рнасць; лі́тасцівасць; **have mercy (on)** шкадава́ць, быць міласэ́рным; **it's a mercy** *infml* гэ́та шча́сце (што); *It's a mercy no one was near during the explosion.* Гэта шчасце, што нікога не было паблізу ў час выбуху; **a mercy flight/mission** выратава́льны палёт/выратава́льная мі́сія ♦ **at the mercy of** ца́лкам пад ула́дай, на мі́ласці

**mere** [mɪə] *adj.* нязна́чны; звыча́йны; про́сты; *He's a mere clerk.* Ён усяго толькі клерк; *She is a mere child.* Яна яшчэ зусім дзіця.

**merely** [ˈmɪəli] *adv.* то́лькі; про́ста; *This is merely the latest example of his cruelty.* Гэта толькі апошні прыклад яго жорсткасці; *It's not merely broken, it's ruined.* Гэта не проста паламана, гэта канчаткова знішчана.

**merge** [mɜːdʒ] *v.* **1. (into/with)** аб'ядно́ўвацца; злуча́цца; зліва́цца; *The two countries merged into one.* Абедзве краіны аб'ядналіся ў адну; *Her life merged with his.* Яе жыццё злучылася з яго (жыццём). **2.** аб'ядно́ўваць; злуча́ць; зліва́ць

**merger** [ˈmɜːdʒə] *n.* аб'ядна́нне; злучэ́нне; зліццё

**meridian** [məˈrɪdiən] *n.* мерыдыя́н

**meringue** [məˈræŋ] *n.* мерэ́нга (*тып піражнага*)
**merit** [ˈmerɪt] *n.* **1.** ва́ртасць; **a work of great artistic merit** твор вялі́кай маста́цкай ва́ртасці **2.** *pl.* **merits** до́брыя я́касці; перава́гі, плюсы́; *I don't see any merits in being rich.* Я не бачу ніякіх плюсоў у багацці. **3.** заслу́га; **judge smb. on merit** судзі́ць каго́-н. па заслу́гах; *Everyone is selected on merit.* Кожнага выбіраюць па заслугах.
**mermaid** [ˈmɜːmeɪd] *n.* руса́лка
**merry** [ˈmeri] *adj.* **1.** вясёлы; (*A*) *Merry Christmas!* Вясёлых Каляд! **2.** *BrE, infml* на падпі́тку
**merry-go-round** [ˈmerigəʊˌraʊnd] *n.* карусе́ль
**mesh**[1] [meʃ] *n.* се́тка; **wire mesh** металі́чная се́тка
**mesh**[2] [meʃ] *v.* зліва́цца; быць у сула́ддзі
**mesmerize,** *BrE* **-ise** [ˈmesməraɪz] *v.* **1.** гіпнатызава́ць **2.** зачаро́ўваць
**mess**[1] [mes] *n.* **1.** бязла́ддзе, непара́дак; блытані́на; **be in a mess** быць у бязла́ддзі; **make a mess (of)** *infml* сапсава́ць; наблы́таць **2.** *infml* ця́жкія абста́віны; заблы́таная сітуа́цыя; **get into a mess** апыну́цца ў ця́жкіх абста́вінах/заблы́танай сітуа́цыі
**mess**[2] [mes] *n. mil.* стало́ўка, клуб-стало́ўка; каю́т-кампа́нія
**mess**[3] [mes] *v. infml* пэ́цкаць
**mess about** [ˌmesəˈbaʊt] *phr.v.* **1.** валаво́дзіцца, важда́цца **2.** калупа́цца, мару́дзіць
**mess around** [ˌmesəˈraʊnd] *phr.v.* = **mess about**
**mess up** [ˌmesˈʌp] *phr.v.* **1.** пэ́цкаць **2.** прававáльваць **3.** перaблы́тваць; *His late arrival messed up our plans.* Яго спазненне зблытала нашы планы.
**message** [ˈmesɪdʒ] *n.* **1.** паведамле́нне; **leave a message for smb.** пакі́нуць паведамле́нне для каго́-н. **2.** пасла́нне **3.** ідэ́я (*кнігі, п'есы і да т.п.*) ♦ **get the message** *infml* зразуме́ць
**messenger** [ˈmesɪndʒə] *n.* пасы́льны, кур'е́р; сувязны́
**messiah** [məˈsaɪə] *n.* месі́я
**Messrs** [ˈmesəz] *n. BrE* (*ужываецца перад прозвішчамі дзвюх ці болей асоб, а таксама ў назвах фірм або кампаній*) **: to Messrs**... спадара́м...
**messy** [ˈmesi] *adj.* **1.** бру́дны, неаха́йны **2.** склада́ны, заблы́таны (*пра сітуацыю, стан рэчаў*)
**met** [met] *past, p.p.* → **meet**
**metabolic** [ˌmetəˈbɒlɪk] *adj. biol.* метабалі́чны
**metabolism** [məˈtæbəlɪzəm] *n. biol.* метабалі́зм
**metal** [ˈmetl] *n.* мета́л
**metalanguage** [ˈmetəˌlæŋgwɪdʒ] *n. ling.* метамо́ва
**metallic** [məˈtælɪk] *adj.* **1.** металі́чны **2.** металі́чны, падо́бны да мета́лу (*пра гук, бляск і да т.п.*)
**metallurgy** [məˈtælədʒi] *n.* металу́ргія; **powder metallurgy** парашко́вая металу́ргія
**metamorphosis** [ˌmetəˈmɔːfəsɪs] *n.* (*pl.* **metamorphoses**) метамарфо́за, пераўтварэ́нне, (по́ўнае) змяне́нне
**metaphor** [ˈmetəfə] *n.* **(for)** мета́фара
**metaphorical** [ˌmetəˈfɒrɪkl] *adj.* метафары́чны
**metaphysical** [ˌmetəˈfɪzɪkl] *adj.* метафізі́чны
**mete** [miːt] *v. fml* **: mete out punishment** выно́сіць прысу́д; вызнача́ць пакара́нне
**meteor** [ˈmiːtiə] *n. astron.* метэо́р
**meteorite** [ˈmiːtiəraɪt] *n. astron.* метэары́т
**meteorological** [ˌmiːtiərəˈlɒdʒɪkl] *adj.* метэаралагі́чны
**meteorologist** [ˌmiːtiəˈrɒlədʒɪst] *n.* метэаро́лаг
**meteorology** [ˌmiːtiəˈrɒlədʒi] *n.* метэаралóгія
**meter**[1] [ˈmiːtə] *n.* **1.** лічы́льнік; **an electricity/gas meter** электры́чны/га́завы лічы́льнік; **a parking meter** лічы́льнік на аўтастая́нцы **2.** *AmE* = **metre**
**meter**[2] [ˈmiːtə] *v.* вымяра́ць лічы́льнікам (*колькасць вады, электрычнасці, газу і да т.п.*)
**methane** [ˈmiːθeɪn] *n. chem.* мета́н
**method** [ˈmeθəd] *n.* **(of/for) 1.** ме́тад, спо́саб, сро́дак; сістэ́ма; **teaching methods** ме́тады навуча́ння; **a new method of cure/application** но́вы спо́саб лячэ́ння/карыста́ння; **a man of method** метады́чны чалаве́к **2.** *pl.* **methods** мето́дыка
**methodical** [məˈθɒdɪkl] *adj.* метады́чны, сістэматы́чны
**Methodist** [ˈmeθədɪst] *n. relig.* метады́ст, паслядо́ўнік вучэ́ння метады́сцкай царквы́
**methodology** [ˌmeθəˈdɒlədʒi] *n.* метадало́гія
**meticulous** [mɪˈtɪkjələs] *adj.* **(in/about)** ве́льмі ўва́жлівы да дро́бязяў, педанты́чны; прыдзі́рлівы
**metre** [ˈmiːtə] *n. BrE* **1.** метр (*адзінка даўжыні*) **2.** метр (*вершаваны памер*)
**metric** [ˈmetrɪk] *adj.* метры́чны; **the metric system** метры́чная сістэ́ма; **a metric ton** метры́чная то́на (*= 1000 кг*)
**metro** [ˈmetrəʊ] *n.* метро́; **travel on the metro/by metro** е́хаць у метро́
**metropolis** [mɪˈtrɒpəlɪs] *n.* **1.** сталі́ца **2.** буйны́ го́рад, цэнтр дзелаво́га і культу́рнага жыцця́
**metropolitan**[1] [ˌmetrəˈpɒlɪtən] *n. relig.* мітрапалі́т; бі́скуп, епі́скап

**metropolitan**[2] [ˌmetrəˈpɒlɪtən] *adj.* які́ мáе аднó-сіны да буйнóга гóрада абó сталі́цы; **the metropolitan police** палі́цыя вялі́кага гóрада
**mettle** [ˈmetl] *n.* смéласць; рашýчасць; **a man of mettle** чалавéк з харáктарам ♦ **be on one's mettle** быць гатóвым да (сур'ёзных) выпрабавáнняў
**mew**[1] [mjuː] *n.* мя́ўканне
**mew**[2] [mjuː] *v.* мя́ўкаць
**Mexican**[1] [ˈmeksɪkən] *n.* мексікáнец; мексікáнка
**Mexican**[2] [ˈmeksɪkən] *adj.* мексікáнскі
**mezzo-soprano** [ˌmetsəʊsəˈprɑːnəʊ] *n. mus.* (*pl.* **mezzo-sopranos**) мéцца-сапрáна
**mg** (*пісьмовае скар. ад* **milligram**) мілігрáм
**MHz** (*пісьмовае скар. ад* **megahertz**) *electr.* мегагéрц, МГц
**mice** [maɪs] *pl.* → **mouse**
**Mickey Mouse** [ˌmɪkɪˈmaʊs] *adj. infml* несур'ёзны; нязнáчны; непатрэ́бны
**microbe** [ˈmaɪkrəʊb] *n.* мікрóб
**microbiology** [ˌmaɪkrəʊbaɪˈɒlədʒi] *n.* мікрабіялóгія
**microchip** [ˈmaɪkrəʊtʃɪp] *n.* мікрачы́п
**microelectronics** [ˌmaɪkrəʊɪˌlekˈtrɒnɪks] *n.* мікраэлектрóніка
**microorganism** [ˌmaɪkrəʊˈɔːgənɪzəm] *n.* мікраарганí́зм
**microphone** [ˈmaɪkrəfəʊn] *n.* мікрафóн
**microprocessor** [ˌmaɪkrəʊˈprəʊsesə] *n.* мікрапрацэ́сар
**microscope** [ˈmaɪkrəskəʊp] *n.* мікраскóп
**microwave** [ˈmaɪkrəweɪv] *n.* (*таксама* **microwave oven**) мікрахвáлевая печ
**midday** [ˌmɪdˈdeɪ] *n.* пóўдзень, дванáццаць гадзі́н; **at midday** у пóўдзень
**middle**[1] [ˈmɪdl] *n.* сярэ́дзіна; сярэ́дняя чáстка; **in the middle of the room** пасярэ́дзіне пакóя; **in the middle of the night** сярóд нóчы
**middle**[2] [ˈmɪdl] *adj.* сярэ́дні; **the middle finger** сярэ́дні пáлец
**middle age** [ˌmɪdlˈeɪdʒ] *n.* сярэ́дні ўзрóст
**middle-aged** [ˌmɪdlˈeɪdʒd] *adj.* сярэ́дняга ўзрóсту
**Middle Ages** [ˌmɪdlˈeɪdʒɪz] *n.* **the Middle Ages** сярэ́днія вякі́, сярэднявéчча
**middle class**[1] [ˌmɪdlˈklɑːs] *n.* **the middle class** сярэ́дні клас, сярэ́днія слаі́ грамáдства
**middle-class**[2] [ˌmɪdlˈklɑːs] *adj.* **1.** які́ налéжыць да сярэ́дніх слаёў грамáдства **2.** буржуáзны; **a middle-class upbringing** буржуáзнае выхавáнне
**Middle Eastern** [ˌmɪdlˈiːstən] *adj.* блізкаўсхóдні
**middleman** [ˈmɪdlmən] *n.* (*pl.* **-men**) пасрэ́днік
**middle school** [ˈmɪdlˌskuːl] *n.* сярэ́дняя шкóла (*у Англіі для дзяцей ва ўзросце 9–13 гадоў; у ЗША для дзяцей ад 11 да 14 гадоў* )
**Midlands** [ˈmɪdləndz] *n.* **the Midlands** цэнтрáльная чáстка А́нгліі
**midnight** [ˈmɪdnaɪt] *n.* пóўнач; **at midnight** апóўначы
**midst** [mɪdst] *n.* сярэ́дзіна ♦ **in the midst of** сярóд (*натоўпу і да т.п.*); у час (*пра якую-н. падзею*); **in our midst** *fml* сярóд нас
**midsummer** [ˌmɪdˈsʌmə] *n.* сярэ́дзіна лéта; **Midsummer('s) Day** дзень Святóга Яна (*24-га чэрвеня*)
**midway** [ˌmɪdˈweɪ] *adv.* на паўдарóзе; пасярэ́дзіне, усярэ́дзіне
**midwife** [ˈmɪdwaɪf] *n.* акушэ́рка; павітýха
**might**[1] [maɪt] *n. fml* магýтнасць, сі́ла; **with all one's might** з усяé сі́лы ♦ **with might and main** *fml* з усяé сі́лы, на ўсю моц
**might**[2] [maɪt] *v.* **1.** *past* → **may** **2.** магчы́ма, мóжа быць; *You might be right.* Магчыма, вы маеце рацыю; *The two countries might go to war.* Гэтыя дзве краіны могуць распачаць вайну; *You might not have noticed the road sign.* Вы, магчыма, не заўважылі знак на дарозе. **3.** мог бы, магла́ б, маглі́ б (*азначае моцны папрок, дакор*); *You might have told me that before!* Ты мог бы сказаць мне пра гэта раней! **4.** *fml* мóжна (*азначае просьбу ў ветлівай форме*); *Might I make a suggestion?* Магу я зрабіць прапанову?
**mightn't** [ˈmaɪtnt] *v. скар. ад* might not
**mighty**[1] [ˈmaɪti] *adj. fml* магýтны; мóцны; вялі́зны, вéлічны
**mighty**[2] [ˈmaɪti] *adv. infml* вéльмі; *It's mighty good to see you.* Вельмі прыемна ўбачыцца з табой.
**migraine** [ˈmiːgreɪn] *n. med.* мігрэ́нь
**migrant** [ˈmaɪgrənt] *n.* **1.** перасялéнец (*асабліва ў пошуках працы*) **2.** пералётная птýшка; вандрóўная жывёліна
**migrate** [maɪˈgreɪt] *v.* мігры́раваць; перасяля́цца; вандравáць
**migration** [maɪˈgreɪʃn] *n.* мігрáцыя, перамяшчэ́нне, перасялéнне
**mike** [maɪk] *n. infml* = **microphone**
**milage** [ˈmaɪlɪdʒ] = **mileage**
**mild** [maɪld] *adj.* спакóйны, мя́ккі; лёгкі; далікáтны; **a mild climate** мя́ккі клі́мат; **a mild illness** лёгкае захвóрванне; **a mild character** спакóйны харáктар
**mildly** [ˈmaɪldli] *adv.* мя́кка, лёгка; далікáтна ♦ **to put it mildly** мя́кка кáжучы

**mile** [maɪl] *n.* **1.** мі́ля (≈ *1609 м*) **2.** *pl.* **miles** ве́льмі вялі́кая адле́гласць; *We were miles away from home.* Мы былі вельмі далёка ад дому. ♦ **miles better** шмат ле́пей; **miles older** намно́га старэ́йшы; **be miles away** не звaжа́ць, што ро́біцца/гаво́рыцца наво́кал; **go the extra mile** прыкладáць дадатко́выя намага́нні (*каб дабіцца пэўнай мэты*); *Neither of the parties seems willing to go the extra mile for peace.* Здаецца, абодва бакі не жадаюць прыкладаць дадатковых намаганняў дзеля міру.

**mileage** [ˈmaɪlɪdʒ] *n.* **1.** адле́гласць (*у мілях*), про́йдзеная аўтамабі́лем; *What mileage did you do yesterday?* Якую адлегласць вы праехалі ўчора? **2.** прабе́г аўтамабіля на адзі́нку гару́чага **3.** кары́сць, вы́гада

**milestone** [ˈmaɪlstəʊn] *n.* **1. (in)** вяха́ **2.** ка́мень пры даро́зе (*з адзначанай на ім адлегласцю да пэўнага месца*)

**milieu** [miːˈljɜː] (*pl.* **milieux** *or* **milieus**) *n. fml* асяро́ддзе

**militant**[1] [ˈmɪlɪtənt] *n.* актыві́ст

**militant**[2] [ˈmɪlɪtənt] *adj.* ваяўні́чы (*у палітычнай, грамадскай дзейнасці*)

**militancy** [ˈmɪlɪtənsi] *n.* ваяўні́часць

**militarism** [ˈmɪlɪtərɪzəm] *n.* мілітары́зм

**militarist** [ˈmɪlɪtərɪst] *n.* мілітары́ст

**military**[1] [ˈmɪlətri] *n.* **the military** а́рмія; вайско́ўцы (*асабліва афіцэры вышэйшага рангу*)

**military**[2] [ˈmɪlətri] *adj.* вае́нны; вайско́вы; **the Military Academy** вае́нная акадэ́мія; **the military police** вае́нная палі́цыя; **a military helicopter** вайско́вы верталёт; **military service** вае́нная слу́жба

**militia** [məˈlɪʃə] *n.* мілі́цыя

**militiaman** [məˈlɪʃəmən] *n.* (*pl.* **-men**) міліцыяне́р

**milk**[1] [mɪlk] *n.* малако́; **skimmed milk** зня́тае малако́ ♦ **the land of milk and honey** ≅ малочныя рэ́кі з кісе́льнымі берaга́мі; краі́на даста́тку; запаве́тная зямля́; **it's no use crying over spilt milk** ≅ слязьмі́ ра́ды не дасі́

**milk**[2] [mɪlk] *v.* **1.** даі́ць **2.** «даі́ць» (*каго-н.*), атры́млiваць кары́сць, эксплуатава́ць

**milky** [ˈmɪlki] *adj.* мало́чны

**Milky Way** [ˌmɪlkɪˈweɪ] *n. astron.* **the Milky Way** Мле́чны Шлях

**mill**[1] [mɪl] *n.* **1.** заво́д, фа́брыка; **a steel mill** сталеліцэ́йны заво́д; **a textile mill** тэксты́льная фа́брыка **2.** млын

**mill**[2] [mɪl] *v.* мало́ць

**mill about** [ˌmɪləˈbaʊt] *phr.v. BrE* = **mill around**

**mill around** [ˌmɪləˈraʊnd] *phr.v.* бязла́дна ру́хацца (*пра людзей*); таптáцца

**millennia** [mɪˈleniə] *pl.* → **millennium**

**millennium** [mɪˈleniəm] *n.* (*pl.* **millennia** *or* **millenniums**) тысячаго́ддзе

**miller** [ˈmɪlə] *n.* млына́р

**millet** [ˈmɪlɪt] *n.* про́са

**milligram,** *BrE* **milligramme** [ˈmɪligræm] *n.* міліграм

**millimeter** [ˈmɪlimiːtə] *AmE* = **millimetre**

**millimetre** [ˈmɪlimiːtə] *n. BrE* міліме́тр

**million** [ˈmɪljən] *n., num.* мільён; **five million people** пяць мільёнаў чалаве́к; **millions of people** мільёны людзе́й

**millionaire** [ˌmɪljəˈneə] *n.* мільяне́р

**millionth**[1] [ˈmɪljənθ] *n.* мільённая ча́стка

**millionth**[2] [ˈmɪljənθ] *num.* мільённы

**mime**[1] [maɪm] *n.* мі́міка; жэстыкуля́цыя; пантамі́ма

**mime**[2] [maɪm] *v.* **1.** ужыва́ць мі́міку; жэстыкуля́ва́ць **2.** імітава́ць

**mimic**[1] [ˈmɪmɪk] *n.* іміта́тар

**mimic**[2] [ˈmɪmɪk] *v.* парадзі́раваць; імітава́ць

**min.** (*пісьмовае скар. ад*)**: 1. minimum** мі́німум **2. minute** хвілі́на; міну́та

**mince**[1] [mɪns] *n. BrE* мясны́ фарш

**mince**[2] [mɪns] *v.* **1.** крышы́ць, рэ́заць на дро́бныя кава́лачкі; прапуска́ць праз мясару́бку **2.** дро́бненька ту́пaць, ступа́ць ♦ **not mince one's words** гавары́ць адкры́та, шчы́ра (*нават і крыўдныя рэчы*)

**mincer** [ˈmɪnsə] *n.* мясару́бка

**mind**[1] [maɪnd] *n.* **1.** ро́зум **2.** ду́мка, по́гляд **3.** па́мяць; *It slipped my mind.* Гэта выскачыла ў мяне з галавы. ♦ **to my mind** на маю́ ду́мку, на мой по́гляд; **bear/keep in mind** мець на ўва́зе, па́мятаць; **change one's mind** перадумаць; **make up one's mind** прыня́ць рашэ́нне, вы́рашыць

**mind**[2] [maɪnd] *v.* **1.** звярта́ць ува́гу, зважа́ць; **don't mind me** не звярта́йце на мяне́ ўва́гі; **mind the steps!** асцяро́жна, прысту́пкі! **2. :** *Do you mind if I open the window?* Вы не будзеце супраць, калі я адчыню акно? ♦ **never mind** нічо́га; не турбу́йцеся

**minder** [ˈmaɪndə] *n.* целаахо́ўнік

**mindful** [ˈmaɪndfəl] *adj. fml* **(of)** які́ не забыва́ецца (*пра парады, правілы і да т.п.*); які дзе́йнічае з асцяро́жнасцю, аба́члівы

**mindless** [ˈmaɪndləs] *adj.* **1.** дурны́, неразва́жлівы; бязглу́зды; **mindless destruction** бязглу́здае разбурэ́нне **2. (of)** які́ не ду́мае (*пра каго-н., што-н.*); які́ не лі́чыцца (*з кім-н., чым-н.*); **be mindless of danger** не ду́маць пра небясне́ку

**mindlessly** [ˈmaɪndləsli] *adv.* неразва́жліва, бязглу́зда

**mindlessness** [ˈmaɪndləsnəs] *n.* ду́расць; неразва́жлівасць

**mine[1]** [maɪn] *pron.* мой, мая́, маё, мае́; **a friend of mine** мой ся́бар; *This book is mine.* Гэта кніжка мая.

**mine[2]** [maɪn] *n.* **1.** ша́хта, рудні́к; **coal mines** ву́гальныя ша́хты **2.** мі́на; фуга́с ♦ **a mine of information** крыні́ца інфарма́цыі (*пра чалавека*)

**mine[3]** [maɪn] *v.* **1.** здабыва́ць (*выкапні*) **2.** міні́раваць, закла́дваць мі́ны

**minefield** [ˈmaɪnfiːld] *n.* **1.** мі́ннае по́ле **2.** небяспе́чная тэ́ма, праблéма і да т.п.

**miner** [ˈmaɪnə] *n.* шахцёр; гарня́к

**mineral[1]** [ˈmɪnərəl] *n.* мінера́л

**mineral[2]** [ˈmɪnərəl] *adj.* мінера́льны

**mineral water** [ˈmɪnərəlˌwɔːtə] *n.* мінера́льная вада́

**mingle** [ˈmɪŋgl] *v.* **(with) 1.** зліва́цца (*пра гукі*); змéшвацца (*пра пачуцці, пахі*) **2.** тусава́цца

**miniature[1]** [ˈmɪnətʃə] *n.* мініяцю́ра; **in miniature** у мініяцю́ры

**miniature[2]** [ˈmɪnətʃə] *adj.* мініяцю́рны

**minibus** [ˈmɪnibʌs] *n.* мікрааўто́бус

**minima** [ˈmɪnɪmə] *pl.* → **minimum**

**minimal** [ˈmɪnɪməl] *adj.* мінімáльны; **minimal art** мінімалі́зм (*кірунак у мастацтве*)

**minimally** [ˈmɪnɪməli] *adv.* мінімáльна

**minimalism** [ˈmɪnɪməlɪzəm] *n.* мінімалі́зм (*кірунак у мастацтве*)

**minimalist** [ˈmɪnɪməlɪst] *n.* маста́к-мінімалі́ст

**minimize,** *BrE* **-ise** [ˈmɪnɪmaɪz] *v.* **1.** даво́дзіць да мі́німуму **2.** прымяншáць, перамяншáць

**minimum** [ˈmɪnɪməm] *n.* (*pl.* **minima**) мі́німум; **reduce smth. to a minimum** даве́сці што-н. да мі́німуму; **at a minimum** як мі́німум; *This will take 3 months at a minimum.* Гэта зойме 3 месяцы як мінімум.

**mining** [ˈmaɪnɪŋ] *n.* **1.** го́рная спра́ва; го́рная прамысло́васць **2.** міні́раванне

**minister[1]** [ˈmɪnɪstə] *n.* **1. (of/for)** міні́стр; **Minister of/for Education** міні́стр адука́цыі; **Prime Minister** прэм’е́р-міні́стр **2.** *dipl.* пасла́ннік **3.** святáр (*асабліва ў пратэстантаў*), па́стар

**minister[2]** [ˈmɪnɪstə] *v.* **(to)** *fml* памага́ць, дапамага́ць, ака́зваць дапамо́гу; прыслуго́ўваць, абслуго́ўваць

**ministerial** [ˌmɪnɪˈstɪəriəl] *adj.* міністэ́рскі; **a ministerial post** міністэ́рскі пост; **at ministerial level** на ўзро́ўні міні́страў

**ministry** [ˈmɪnɪstri] *n.* **(of) 1.** *BrE* міністэ́рства; **the Foreign Ministry** Міністэ́рства замéжных спраў **2.** тэ́рмін знахо́джання ва ўла́дзе міні́стра або́ кабінéта міні́страў **3.** святáрства, па́старства

**mink** [mɪŋk] *n.* **1.** *zool.* но́рка **2.** фу́тра но́ркі

**minnow** [ˈmɪnəʊ] *n.* **1.** *zool.* пячку́р **2.** *infml* драбязá

**minor[1]** [ˈmaɪnə] *n. law* непаўнале́тні

**minor[2]** [ˈmaɪnə] *adj.* **1.** нязна́чны, другаразра́дны; **a minor role** нязна́чная ро́ля **2.** несур’ёзны; лёгкі (*пра хваробу, рану, аперацыю*) **3.** міно́рны, су́мны; *The novel ends on a minor note.* Раман заканчваецца на мінорнай ноце.

**minority** [maɪˈnɒrəti] *n.* мéншасць, мéншая ча́стка; **be in a/the minority** быць у мéншасці; **a national/racial/religious minority** нацыяна́льная/ра́савая/рэлігі́йная мéншасць

**mint[1]** [mɪnt] *n. bot.* мя́та

**mint[2]** [mɪnt] *n.* **1.** манéтны двор **2.** *infml* вялі́кія гро́шы; **make a mint of money** зарабля́ць вялі́кія гро́шы ♦ **in mint condition** у выда́тным ста́не

**mint[3]** [mɪnt] *v.* чака́ніць (*грошы, медалі*)

**minus[1]** [ˈmaɪnəs] *n.* **1.** (знак) мі́нус **2.** *infml* недахо́п

**minus[2]** [ˈmaɪnəs] *adj.* адмо́ўны (*лік, колькасць, велічыня*)

**minus[3]** [ˈmaɪnəs] *prep.* мі́нус, без; **$100 minus taxes** 100 до́лараў мі́нус пада́ткі

**minute[1]** [ˈmɪnɪt] *n.* **1.** хвілі́на, міну́та; *Half a minute later she came back.* Праз паўхвіліны яна вярнулася; **within minutes** вéльмі ху́тка **2.** *pl.* **the minutes** пратако́л (*пасяджэння*); *Who is going to take the minutes?* Хто будзе весці пратакол? ♦ **(at) any minute** з хвілі́ны на хвілі́ну; **in a minute** вéльмі ху́тка, за́раз жа; **just a minute** *infml*/**wait a minute** хвілі́нку; **up to the minute** *infml* 1) вéльмі суча́сны, мо́дны 2) апо́шні, свéжы; *His information is always up to the minute.* Яго звесткі заўсёды самыя свежыя; **not believe for a minute** ні́колькі не вéрыць

**minute[2]** [maɪˈnjuːt] *adj.* **1.** вéльмі малы́; найдрабнéйшы **2.** вéльмі падрабя́зны; *The plan was discussed in the minutest detail(s).* План быў абмеркаваны вельмі падрабязна.

**miracle** [ˈmɪrəkl] *n.* цуд, дзі́ва ♦ **work/perform miracles** тварыць, здзяйсня́ць цу́ды, дава́ць выда́тныя вы́нікі

**miraculous** [mɪˈrækjələs] *adj.* **1.** цудо́ўны; дзіво́сны **2.** цудатво́рны; **a miraculous recovery/escape** цудатво́рнае выздараўлéнне/выратава́нне

**miraculously** [mɪˈrækjələsli] *adv.* цу́дам; дзіво́сна; *They miraculously survived the plane crash.* Яны цудам засталіся жывымі пасля авіякатастрофы.

**mirage** [ˈmɪrɑːʒ, mɪˈrɑːʒ] *n.* **1.** міра́ж **2.** ілю́зія

**mirror**[1] [ˈmɪrə] *n.* лю́стра, люстэ́рка

**mirror**[2] [ˈmɪrə] *v.* адлюстро́ўваць; *This book mirrors his experience.* Гэтая кніга адлюстроўвае яго вопыт.

**mirth** [mɜːθ] *n. fml* весяло́сць і смех; *The play produced mirth among the audience.* П'еса выклікала весялосць і смех у гледачоў.

**misanthrope** [ˈmɪsənθrəʊp] *n. fml* мізантро́п, чалавеканенаві́снік

**misanthropic** [ˌmɪsənˈθrɒpɪk] *adj.* мізантрапі́чны

**misapply** [ˌmɪsəˈplaɪ] *v. fml* выкарысто́ўваць памылко́ва

**misbehave** [ˌmɪsbɪˈheɪv] *v.* **(oneself)** дрэ́нна паво́дзіць сябе́ (*асабліва пра дзяцей*)

**miscalculate** [ˌmɪsˈkælkjuleɪt] *v.* памылі́цца ў разлі́ках; памылко́ва ацані́ць (*сітуацыю, эфект і да т.п.*)

**miscalculation** [ˌmɪskælkjuˈleɪʃn] *n.* памы́лка ў разлі́ках, ацэ́нцы (*чаго-н.*)

**miscarriage** [ˌmɪsˈkærɪdʒ] *n. med.* вы́кідыш

**miscarriage of justice** [mɪsˌkærɪdʒəfˈdʒʌstɪs] *n.* судо́вая памы́лка

**miscellaneous** [ˌmɪsəˈleɪniəs] *adj.* зме́шаны; неаднаро́дны, разнаста́йны, неаднаста́йны; **miscellaneous news** ро́зныя наві́ны

**mischief** [ˈmɪstʃɪf] *n.* **1.** свазо́льства; дурaслі́васць, гарэ́злівасць; *Her eyes were full of mischief.* Яе вочы былі поўныя гарэзлівасці. **2.** *fml* шко́да; бяда́ ♦ **get into mischief** тра́піць у не́раш; **do smb. a mischief** наўмы́сна шко́дзіць каму́-н.; **make mischief** пасвары́ць (*каго-н. з кім-н.*)

**mischief-maker** [ˈmɪstʃɪfˌmeɪkə] *n.* інтрыга́н; інтрыга́нка

**mischievous** [ˈmɪstʃɪvəs] *adj.* **1.** сваво́льны, дурaслі́вы; **a mischievous child** сваво́льнае дзіця́ **2.** *fml* зло́сны, злы; шкадлі́вы; **mischievous gossip/lies** зло́сныя плёткі/зло́сная хлусня́

**misconception** [ˌmɪskənˈsepʃn] *n.* памылко́вая ду́мка, памылко́вы по́гляд; **a common/popular misconception** распаўсю́джаны памылко́вы по́гляд

**misconduct** [ˌmɪsˈkɒndʌkt] *n. fml* **1.** дрэ́нныя паво́дзіны; парушэ́нне дысцыплі́ны **2.** службо́вае злачы́нства

**miser** [ˈmaɪzə] *n.* скна́ра, скупянда́, скупе́ча, жмі́нда

**miserable** [ˈmɪzərəbl] *adj.* **1.** няшча́сны; жа́ласны; ва́рты жа́лю **2.** убо́гі; ке́пскі, дрэ́нны **3.** марко́тны, нудлі́вы **4.** непрые́мны, благі́ **5.** мізэ́рны

**miserably** [ˈmɪzərəbli] *adv.* **1.** жа́ласна **2.** ке́пска **3.** марко́тна **4.** ве́льмі, стра́шна; *I was miserably cold and wet.* Я страшэнна змёрз і прамок.

**miserly** [ˈmaɪzəli] *adj.* **1.** скупы́, сква́пны (*пра чалавека*) **2.** мізэ́рны

**misery** [ˈmɪzəri] *n.* **1.** го́ра; паку́ты **2.** бе́днасць; гале́ча **3.** *BrE, infml* ны́цік, нэ́ндза

**misfit** [ˈmɪsfɪt] *n.* адшчапе́нец; «бе́лая варо́на»

**misfortune** [ˌmɪsˈfɔːtʃuːn] *n.* непрые́мнасць; няўда́ча; бяда́

**misgiving** [ˌmɪsˈɡɪvɪŋ] *n.* **(about)** сумне́нне; неспако́й, трыво́га (*адносна таго, што можа адбывацца або адбываецца*); *She decided to go despite her misgivings.* Яна вырашыла ехаць, нягледзячы на сумненні.

**misguided** [ˌmɪsˈɡaɪdɪd] *adj.* памылко́вы; няпра́вільны

**mishap** [ˈmɪshæp] *n.* непрые́мны вы́падак; **without mishap** уда́ла, паспяхо́ва

**misinform** [ˌmɪsɪnˈfɔːm] *v.* няпра́вільна інфармава́ць

**misinterpret** [ˌmɪsɪnˈtɜːprɪt] *v.* няпра́вільна разуме́ць або́ тлума́чыць; *The president's words were misinterpreted.* Словы прэзідэнта былі вытлумачаны памылкова.

**misinterpretation** [ˌmɪsɪnˌtɜːprɪˈteɪʃn] *n.* памылко́вае разуме́нне/вытлумачэ́нне

**misjudge** [ˌmɪsˈdʒʌdʒ] *v.* зрабі́ць памылко́вую высно́ву (*адносна каго-н. або чаго-н.*), памылі́цца

**misjudg(e)ment** [ˌmɪsˈdʒʌdʒmənt] *n.* памылко́вая ду́мка, памылко́вае разуме́нне

**mislead** [ˌmɪsˈliːd] *v.* **(misled)** падману́ць, ашука́ць, уве́сці ў зман

**misleading** [ˌmɪsˈliːdɪŋ] *adj.* падма́нлівы, падма́нны; **misleading information** падма́нныя зве́сткі; **a misleading advertisement** падма́нлівая рэкла́ма

**misled** [ˌmɪsˈled] *past, p.p.* → **mislead**

**mismanagement** [ˌmɪsˈmænɪdʒmənt] *n.* няпра́вільнае/дрэ́ннае кірава́нне

**misplace** [ˌmɪsˈpleɪs] *v.* (па)кла́сці, (па)ста́віць не на ме́сца, губля́ць (*што-н.*) (*звыч. на кароткі час*)

**misplaced** [ˌmɪsˈpleɪst] *adj.* памылко́вы (*у дадай сітуацыі*); **misplaced optimism/fear** памылко́вы аптымі́зм/страх

**misprint** [ˌmɪsˈprɪnt] *n.* памы́лка дру́ку

**mispronounce** [ˌmɪsprəˈnaʊns] *v.* няпра́вільна вымаўля́ць сло́вы; *He is always mispronounc-*

*ing my name.* Ён заўсёды вымаўляе маё імя няправільна.

**misquote** [ˌmɪsˈkwəʊt] *v.* цытава́ць (*чыё-н.*) вы́казванне недакла́дна, са скажэ́ннем

**misrepresent** [ˌmɪsreprɪˈzent] *v.* ствара́ць скажо́нае ўра́жанне (*аб кім-н./чым-н.*)

**Miss** [mɪs] *n.* **1.** міс; **Miss Smith** міс Сміт **2. : Miss England** міс Англія (*тытул*)

**miss¹** [mɪs] *n.* про́мах; прама́шка

**miss²** [mɪs] *v.* **1.** прамахну́цца, не пацэ́ліць; *He fired at the target but missed it.* Ён выстраліў у цэль, але прамахнуўся. **2.** не заўва́жыць (*што-н.*); *You can't miss their house, it's the highest on the street.* Вы не можаце не заўважыць іх дом, ён самы высокі на вуліцы. **3.** не зразуме́ць; *She missed the joke.* Яна не зразумела жарт. **4.** прапусці́ць; спазні́цца; *He missed his breakfast.* Ён не снедаў./Ён прапусціў снеданне; **miss the train/plane** спазні́цца на цягні́к/самалёт **5.** сумава́ць, марко́ціцца; *What did you miss most when you were abroad?* Па чым вы больш за ўсё сумавалі, калі былі за мяжой? **6.** пазбяга́ць; *You should miss the crowds.* Вам трэба пазбягаць натоўпу.

**miss out** [ˌmɪsˈaʊt] *phr.v.* прапуска́ць, упуска́ць; *You have missed out the most important thing.* Вы прапусцілі самае важнае.

**missile** [ˈmɪsaɪl] *n.* **1.** *mil.* раке́та з камп'ю́тарным кірава́ннем **2.** ка́мень, бутэ́лька і да т.п. (*што кідаюць, каб параніць каго-н.*)

**missing** [ˈmɪsɪŋ] *adj.* **1. (from)** яко́га нестае́, не хапа́е (*на звычайным месцы*); *One name is missing from the list.* Аднаго імя нестае ў спісе; *Fill in the missing words in the text.* Устаўце словы, якіх не хапае ў тэксце. **2.** які́ прапа́ў, знік; **go missing** *BrE* зні́кнуць; *Two files have gone missing.* Зніклі дзве папкі; **missing in action** які́ прапа́ў на вайне́

**mission** [ˈmɪʃn] *n.* **1.** мі́сія (*у розных знач.*) **2.** абавя́зак; прызва́нне, прызначэ́нне; *Her mission in life was to help old people.* Яе прызначэннем у жыцці было памагаць старым людзям. **3.** *mil.* (ва́жнае) даручэ́нне; баявы́ вы́лет; **a space mission** касмі́чны палёт; **mission accomplished** даручэ́нне вы́канана

**missionary¹** [ˈmɪʃənri] *n.* місіяне́р; місіяне́рка; **missionary zeal** вялі́кі энтузія́зм

**missionary²** [ˈmɪʃənri] *adj.* місіяне́рскі

**misspell** [ˌmɪsˈspel] *v.* **(misspelled** *or* **misspelt)** напіса́ць сло́ва з памы́лкай

**misspelt** [ˌmɪsˈspelt] *past, p.p.* → **misspell**

**mist¹** [mɪst] *n.* тума́н

**mist²** [mɪst] *v.* затума́ніцца, тума́ніцца

**mistake¹** [mɪˈsteɪk] *n.* памы́лка; **make a mistake** зрабі́ць памы́лку, памылі́цца; **a spelling mistake** арфаграфі́чная памы́лка ♦ **by mistake** памылко́ва; *Someone must have taken my umbrella by mistake.* Нехта, мабыць, памыліўся і ўзяў мой парасон; **make no mistake (about it)!** *infml* не сумнява́йся!/будзь упэ́ўнены, што…

**mistake²** [mɪˈsteɪk] *v.* **(mistook, mistaken) 1.** памыля́цца; *There is no mistaking.* Памыліцца немагчыма. **2. : mistake smb./smth. for smb./smth.** прыня́ць каго́-н./што-н. за не́кага і́ншага/не́шта і́ншае; *They mistook me for my sister.* Яны прынялі мяне за маю сястру.

**mistaken¹** [mɪˈsteɪkn] *adj.* **1. : be mistaken (about)** памыля́цца (*у чым-н.*); *You are badly mistaken there.* Вы сур'ёзна памыляецеся ў гэтым; *If I am not mistaken...* Калі я не памыляюся... **2.** памылко́вы; **mistaken views/ideas** памылко́выя по́гляды/ду́мкі

**mistaken²** [mɪˈsteɪkn] *p.p.* → **mistake**

**mistakenly** [mɪˈsteɪknli] *adv.* памылко́ва

**mister** [ˈmɪstə] *n.* **1. Mister** (*поўная форма да пісьмовага скар.* **Mr**) мі́стар, спада́р **2.** *infml* (*ужываецца пры звароце да чалавека, чыё прозвішча невядома*); мі́стар, сэр; *Hey, mister, you dropped your glove.* Паслухайце, сэр, вы згубілі пальчатку.

**mistletoe** [ˈmɪsltəʊ] *n. bot.* амяла́ бе́лая

**mistook** [ˌmɪsˈtʊk] *past* → **mistake**

**mistress** [ˈmɪstrəs] *n.* **1.** палюбо́ўніца **2.** гаспады́ня (*дому*) **3.** школ́ьная наста́ўніца **4. : be mistress of** *fml* кантралява́ць (*сітуацыю і да т.п.*), уме́ла спраўля́цца

**mistrust¹** [ˌmɪsˈtrʌst] *n.* **(of)** недаве́р, недаве́р'е

**mistrust²** [ˌmɪsˈtrʌst] *v.* не давяра́ць; *He mistrusted all journalists.* Ён не давяраў усім журналістам.

**mistrustful** [ˌmɪsˈtrʌstfəl] *adj.* **(of)** недаве́рлівы; *She had always been mistrustful of strangers.* Яна заўсёды была недаверлівай да незнаёмых людзей.

**misty** [ˈmɪsti] *adj.* тума́нны; **misty weather** тума́ннае надво́р'е

**misunderstand** [ˌmɪsʌndəˈstænd] *v.* **(misunderstood)** няпра́вільна зразуме́ць (*каго-н. або што-н.*); *Don't misunderstand me.* Не зразумей мяне памылкова.

**misunderstanding** [ˌmɪsʌndəˈstændɪŋ] *n.* **(of/about, between)** няпра́вільнае разуме́нне; непаразуме́нне

**misunderstood¹** [ˌmɪsʌndəˈstʊd] *adj.* няпра́вільна зразуме́лы

**misunderstood²** [ˌmɪsʌndəˈstʊd] *past, p.p.* → **misunderstand**

**misuse¹** [ˌmɪsˈjuːs] *n.* няпра́вільнае выкарыста́нне; злоўжыва́нне; **the misuse of power** злоўжыва́нне ўла́дай; **alcohol misuse** злоўжыва́нне алкаго́лем

**misuse²** [ˌmɪsˈjuːz] *v.* няпра́вільна ўжыва́ць

**mite** [maɪt] *n.* **1.** *zool.* клешч **2.** *infml* мале́нькае дзіця́

**mitigate** [ˈmɪtɪgeɪt] *v. fml* змянша́ць (*боль, наступствы*); змякча́ць (*кару і да т.п.*); **mitigate soil erosion** змянша́ць эро́зію глебы

**mitten** [ˈmɪtn] *n.* рукаві́ца

**mix¹** [mɪks] *n.* **(of)** су́месь; спалучэ́нне

**mix²** [mɪks] *v.* **1.** зме́шваць, зме́швацца; *Oil and water don't mix.* Алей і вада не змешваюцца. **2. (with)** кантактава́ць з людзьмі́; *He finds it hard to mix.* Ён дрэнна кантактуе з людзьмі. **3.** прыгатава́ць су́месь чаго́-н. (*пра ежу, напоі*) ♦ **mix it up** *AmE, infml* свары́цца

**mix up** [ˌmɪksˈʌp] *phr.v.* **1.** до́бра пераме́шваць **2.** пераблы́тваць; *I mixed him up with his brother.* Я пераблытаў яго з братам. **3.** ублы́тваць, уме́шваць; *I don't want to become mixed up in the affair.* Я не хачу ўблытвацца ў гэтую справу; *He can't be mixed up in the murder.* Не можа таго быць, каб ён быў звязаны з гэтым забойствам.

**mixed** [ˈmɪkst] *adj.* ме́шаны, зме́шаны, змяша́ны; **mixed feelings** зме́шаныя/дваі́стыя пачу́цці; **mixed marriages** зме́шаныя шлю́бы; **a mixed education** суме́снае навуча́нне; **a mixed company** разнашэ́рсная кампа́нія; **mixed doubles** зме́шаныя па́ры (*у тэнісе*)

**mixed blessing** [ˌmɪkstˈblesɪŋ] *n.* то́е, што ма́е до́бры і адваро́тны бок адначасо́ва (*што-н., што добра і дрэнна адначасова*); *It is a mixed blessing.* У гэтым ёсць і станоўчыя, і адмоўныя рысы.

**mixed economy** [ˌmɪkstɪˈkɒnəmi] *n.* зме́шаная экано́міка

**mixed-up** [ˌmɪkstˈʌp] *adj. infml* разгу́блены, збянтэ́жаны

**mixer** [ˈmɪksə] *n.* **1.** мі́ксер **2.** безалкаго́льны напо́й для прыгатава́ння кактэ́йля **3. :** ♦ **a good/bad mixer** чалаве́к, які́ лёгка/ця́жка сыхо́дзіцца з людзьмі́

**mixture** [ˈmɪkstʃə] *n.* **1.** су́месь; спалучэ́нне ро́зных рэ́чаў **2.** зме́шванне **3.** *med.* мiксту́ра

**Mk** (*пісьмовае скар. ад* **mark**) ма́рка, мадэ́ль (*машыны і да т.п.*)

**ml** (*пісьмовае скар. ад* **milliliter**) мілілі́тр

**mm** (*пісьмовае скар. ад* **millimeter**) міліме́тр

**mnemonic** [nɪˈmɒnɪk] *adj.* мнемані́чны

**mo** [məʊ] *n. infml* мо́мант; *Wait a mo!* Пачакай хвілінку!

**moan¹** [məʊn] *n.* стогн; **have a moan** *BrE, infml* ска́рдзіцца; *His letters are full of the usual moans.* Яго лісты поўныя звычайных скаргаў.

**moan²** [məʊn] *v.* **1.** стагна́ць **2. (about)** *BrE, infml* ска́рдзіцца (*асабліва без належнай прычыны, так што гэта раздражняе*); *What are you moaning about now?* Ну на што скардзішся цяпер? **3.** лямантава́ць; жальбава́ць, гарава́ць

**moat** [məʊt] *n.* (глыбо́кі і шыро́кі) роў (*звыч. запоўнены вадой*)

**mob¹** [mɒb] *n.* **1.** нато́ўп (*часта раз'юшаны*); збо́рышча **2. the Mob** *infml* ма́фія

**mob²** [mɒb] *v.* акружа́ць; напада́ць

**mobile¹** [ˈməʊbaɪl] *n.* **1.** мабільны тэлефо́н, мабі́льнік; *Call me on my mobile.* Патэлефануй мне на мой мабільнік. **2.** жылы́ аўтафурго́н, дом на ко́лах

**mobile²** [ˈməʊbaɪl] *adj.* **1.** мабі́льны, здо́льны ху́тка і лёгка перамяшча́цца; **a mobile society** мабі́льнае грама́дства; **a mobile library** перасо́вачная бібліятэ́ка **2.** жва́вы, руха́вы (*пра твар*)

**mobility** [məʊˈbɪləti] *n.* мабільнасць; руха́васць; **social mobility** сацыя́льная мабільнасць; *A car gives you mobility.* Аўтамашына робіць вас мабільным.

**mobilize,** *BrE* **-ise** [ˈməʊbəlaɪz] *v.* мабілізава́ць; **mobilize the army** мабілізава́ць а́рмію

**mobilization,** *BrE* **-isation** [ˌməʊbɪlaɪˈzeɪʃn] *n.* мабіліза́цыя

**mock¹** [mɒk] *n. BrE, infml* падрыхто́ўчы экза́мен (*перад афіцыйным экзаменам*); *The mocks are in May.* Падрыхтоўчыя экзамены будуць у маі.

**mock²** [mɒk] *adj.* прытво́рны; псе́ўда-; **mock horror/surprise** прытво́рны жах/прытво́рнае здзіўле́нне; **a mock-Tudor mansion** дом у псеўдацюдо́раўскім сты́лі

**mock³** [mɒk] *v.* дражні́ць, кпіць, здзе́кавацца

**mockery** [ˈmɒkəri] *n.* насме́шка, кпі́ны; здзек; **make a mockery of smb./smth.** насміха́цца, здзе́кавацца з каго́-н./чаго́-н.

**mocking** [ˈmɒkɪŋ] *adj.* насме́шлівы, кплі́вы

**mock-up** [ˈmɒkʌp] *n.* мадэ́ль, ко́пія

**modal** [ˈməʊdl] *n. ling.* мада́льны дзеясло́ў

**mod cons** [ˌmɒdˈkɒnz] *n. pl. BrE, infml* (*асабліва ў рэкламе*) **: all mod cons** усе́ выго́ды (*у доме, кватэры*)

**mode** [məʊd] *n.* **1.** *fml* спо́саб, ме́тад; лад; **the mode of production** спо́саб вытво́рчасці; **a mode of life** лад жыцця́ **2.** стыль; мане́ра; мо-

да; **a mode of behaviour** мане́ра паво́дзін **3.** настро́й; **be in working/holiday mode** быць у рабо́чым/свято́чным настро́і **4.** рэжы́м (*працы механізма*); *The camera works in the automatic mode.* Камера працуе ў аўтаматычным рэжыме. **5.** *mus.* лад

**model**[1] [ˈmɒdl] *n.* **1.** мадэ́ль; **a working model** мадэ́ль, яка́я дзе́йнічае **2.** узо́р, пры́клад **3.** нату́ршчык; нату́ршчыца **4.** манеке́ншчык; манеке́ншчыца

**model**[2] [ˈmɒdl] *v.* **1.** мадэлі́раваць **2.** дэманстрава́ць (*адзенне*) **3.** працава́ць у я́касці нату́ршчыка/нату́ршчыцы ♦ **model on** капірава́ць, імітава́ць; *The system was modelled on the American one.* Гэта сістэма была пабудавана па амерыканскай мадэлі.

**modem** [ˈməʊdem] *n. comput.* мадэ́м

**moderate**[1] [ˈmɒdərət] *adj.* **1.** уме́раны, памяркo̓ўны; **a man of moderate views** чалаве́к памяркo̓ўных по́глядаў; **moderate demands** уме́раныя патрабава́нні; **a moderate climate** уме́раны клі́мат **2.** сярэ́дні; **students of moderate abilities** студэ́нты сярэ́дніх здо́льнасцей

**moderate**[2] [ˈmɒdəreɪt] *v. fml* змянша́ць; змякча́ць; змякча́цца; *The wind is moderating.* Вецер сціхае; *The workers moderated their demands.* Рабочыя зменшылі свае патрабаванні; *The climate in Great Britain is moderated by the Gulf Stream.* Клімат у Вялікабрытаніі змякчаецца Гальфстрымам.

**moderately** [ˈmɒdərətli] *adv.* уме́рана; большменш; *The house was moderately large.* Дом быў не надта вялікі; **a moderately expensive suit** не ве́льмі дарагі́ касцю́м

**moderation** [ˌmɒdəˈreɪʃn] *n.* стры́манасць; **in moderation** стры́мана, уме́рана

**modern** [ˈmɒdn] *adj.* суча́сны; но́вы; **modern society** суча́снае грама́дства; **modern technology** но́вая тэхнало́гія; **modern history** но́вая гісто́рыя

**modern-day** [ˈmɒdnˌdeɪ] *adj.* суча́сны; **modern-day America** суча́сная Аме́рыка

**modernism** [ˈmɒdənɪzəm] *n.* мадэрні́зм

**modernist** [ˈmɒdənɪst] *adj.* мадэрні́сцкі

**modernize,** *BrE* **-ise** [ˈmɒdənaɪz] *v.* мадэрнізава́ць

**modernization,** *BrE* **-isation** [ˌmɒdənaɪˈzeɪʃn] *n.* мадэрніза́цыя

**modest** [ˈmɒdɪst] *adj.* **1.** сці́плы; **a modest dress** сці́плая суке́нка **2.** адно́сна невялі́кі; **modest reforms** нязна́чныя рэфо́рмы; **a modest income** невялі́кі дахо́д

**modesty** [ˈmɒdəsti] *n.* сці́пласць

**modification** [ˌmɒdɪfɪˈkeɪʃn] *n.* мадыфіка́цыя; змяне́нне

**modifier** [ˈmɒdɪfaɪə] *n. ling.* паясне́нне; паясня́льнае сло́ва

**modify** [ˈmɒdɪfaɪ] *v.* **1.** мадыфікава́ць; змяня́ць **2.** *ling.* паясня́ць

**module**[1] [mɒdjuːl] *n.* мо́дуль

**mogul** [ˈməʊgl] *n.* ва́жная персо́на; магна́т (*асабліва ў кіно або СМІ*)

**moist** [mɔɪst] *adj.* вільго́тны, сыры́

**moisten** [ˈmɔɪsn] *v.* рабі́ць вільго́тным, увільгатня́ць, змо́чваць

**moisture** [ˈmɔɪstʃə] *n.* ві́льгаць, сы́расць

**moisturize,** *BrE* **-ise** [ˈmɔɪstʃəraɪz] *v.* змякча́ць ску́ру крэ́мам

**moisturizer,** *BrE* **-iser** [ˈmɔɪstʃəraɪzə] *n.* крэм (*які ўвільгатняе скуру*)

**mold** [məʊld] *AmE* = **mould**

**molding** [ˈməʊldɪŋ] *AmE* = **moulding**

**moldy** [ˈməʊldi] *AmE* = **mouldy**

**mole**[1] [məʊl] *n.* радзі́мка

**mole**[2] [məʊl] *n.* **1.** *zool.* крот **2.** та́йны аге́нт

**mole**[3] [məʊl] *n. phys., chem.* моль

**molecular** [məʊˈlekjələ] *adj. phys., chem.* малекуля́рны

**molecule** [ˈmɒlikjuːl] *n. chem.* мале́кула

**molehill** [ˈməʊlhɪl] *n.* крато́вая ку́піна ♦ **make a mountain out of a molehill** ≅ рабі́ць з му́хі слана́; з камара́ каня́ рабі́ць

**molest** [məˈlest] *v.* прыстава́ць, чапля́цца (*асабліва з сексуальнымі мэтамі*)

**mollify** [ˈmɒlɪfaɪ] *v. fml* супако́йваць (*засмучанасць, злосць*)

**mollusc** [ˈmɒləsk] *n. zool.* малю́ск

**molt** [məʊlt] *AmE* = **moult**

**molten** [ˈməʊltən] *adj.* распла́ўлены

**mom** [mɒm] *n. AmE, infml* ма́мачка, маму́ля, мату́ля, ма́тухна

**moment** [ˈməʊmənt] *n.* імгне́нне, мо́мант, міг; **in a moment** за́раз жа, праз хвілі́нку; **at the last moment** у апо́шнюю хвілі́ну ♦ **at this moment in time** у гэ́ты мо́мант; **(at) any moment** у любу́ю хвілі́ну; *They may return at any moment.* Яны могуць вярнуцца ў любую хвіліну; **the moment of truth** мо́мант і́сціны

**momentary** [ˈməʊməntri] *adj.* **1.** імгне́нны, марнента́льны **2.** кароткатэрміно́вы

**momentous** [məˈmentəs] *adj.* ва́жны, выклю́чнай ва́жнасці; які́ бу́дзе мець вялі́кае значэ́нне

**momma** [ˈmɒmə] *n. AmE, infml* ма́ці, ма́мачка, мату́ля

**mommy** [ˈmɒmi] *AmE* = **mummy**

**Mon.** (*пісьмовае скар. ад* **Monday**) панядзе́лак; **Mon. Oct. 19** панядзе́лак 19 кастры́чніка
**monarch** [ˈmɒnək] *n.* мана́рх
**monarchy** [ˈmɒnəki] *n.* мана́рхія
**monastery** [ˈmɒnəstri] *n.* манасты́р (*мужчынскі*); кля́штар (*каталіцкі*)
**monastic** [məˈnæstɪk] *adj.* **1.** манасты́рскі; кля́штарны **2.** мана́скі
**Monday** [ˈmʌndeɪ, ˈmʌndi] *n.* панядзе́лак; **on Monday** у панядзе́лак
**monetarism** [ˈmʌnɪtərɪzəm] *n. econ.* манетары́зм
**monetary** [ˈmʌnɪtri] *adj.* **1.** грашо́вы; манета́рны **2.** валю́тны; **the International Monetary Fund** Міжнаро́дны валю́тны фонд
**money** [ˈmʌni] *n.* гро́шы; **earn money** зарабля́ць гро́шы; **save money** адкла́дваць гро́шы; захо́ўваць гро́шы, не расхо́дуючы іх; **spend money** тра́ціць гро́шы; **borrow money** пазыча́ць гро́шы (*у каго-н.*); **raise money** збіра́ць гро́шы ♦ **be in the money** *infml* мець шмат гро́шай; **make money** зарабля́ць гро́шы, атры́мліваць прыбы́так; **money talks** гро́шы ма́юць вялі́кую сі́лу
**money supply** [ˈmʌnɪsəˌplaɪ] *n. econ.* грашо́вая ма́са (*у краіне*)
**Mongol**[1] [ˈmɒŋgəl] *n.* манго́л; манго́лка; **the Mongols** манго́лы
**Mongol**[2] [ˈmɒŋgəl] *adj.* манго́льскі
**mongol** [ˈmɒŋgəl] *n. derog.* чалаве́к, які́ паку́туе ад сіндро́му Да́ўна
**Mongolian**[1] [mɒŋˈgəʊliən] *n.* **1.** манго́л; манго́лка **2.** манго́льская мо́ва
**Mongolian**[2] [mɒŋˈgəʊliən] *adj.* манго́льскі
**mongrel** [ˈmʌŋgrəl] *n.* саба́ка зме́шанай паро́ды; дварня́к
**monitor**[1] [ˈmɒnɪtə] *n.* **1.** *tech.* маніто́р **2.** ста́раста (*у класе або студэнцкай групе*); ву́чань, які́ дапамага́е наста́ўніку **3.** наглядчык; кантралёр
**monitor**[2] [ˈmɒnɪtə] *v.* **1.** наглядаць, кантралява́ць **2.** збіра́ць інфарма́цыю з ра́дыё- і тэлеперада́ч і́ншых краі́н
**monk** [mʌŋk] *n.* мана́х
**monkey** [ˈmʌŋki] *n.* **1.** ма́лпа **2.** *infml* жва́вае і сваво́льнае дзіця́; **monkey business** *infml* несумле́нныя або́ дурны́я паво́дзіны
**monogamous** [məˈnɒgəməs] *adj.* манага́мны
**monogamy** [məˈnɒgəmi] *n.* манага́мія
**monogram** [ˈmɒnəgræm] *n.* манагра́ма
**monologue** [ˈmɒnəlɒg] *n.* manaло́г
**monopolization,** *BrE* **-isation** [məˌnɒpəlaɪˈzeɪʃn] *n.* манапаліза́цыя
**monopolize,** *BrE* **-ise** [məˈnɒpəlaɪz] *v.* манапалізава́ць
**monopoly** [məˈnɒpəli] *n.* манапо́лія
**monosyllabic** [ˌmɒnəsɪˈlæbɪk] *adj. ling.* аднаскладо́вы
**monotonous** [məˈnɒtənəs] *adj.* аднаста́йны; манато́нны; **monotonous work** аднаста́йная пра́ца; **a monotonous diet** аднаста́йная е́жа
**monotony** [məˈnɒtəni] *n.* аднаста́йнасць; манато́ннасць; нуда́, нудо́та
**monsoon** [ˌmɒnˈsuːn] *n.* мусо́н
**monster** [ˈmɒnstə] *n.* пачва́ра; страшы́дла
**monstrous** [ˈmɒnstrəs] *adj.* **1.** страшэ́нны, жу́дасны; **a monstrous lie** страшэ́нная хлусня́; **a monstrous crime** жу́даснае злачы́нства **2.** страшэ́нна вялі́кі
**month** [mʌnθ] *n.* **1.** ме́сяц; **next month** у насту́пным ме́сяцы; **last month** у міну́лым ме́сяцы; **by the month** паме́сячна/штоме́сячна; **month by/after month** ко́жны ме́сяц; **six months** паўго́да, шэсць ме́сяцаў; *What day of the month is it?* Якое сёння чысло? **2.** *pl.* **months** *infml* до́ўгі час; *I haven't seen them for months.* Я даўно не бачыў іх. ♦ **never in a month of Sundays** *infml* ніко́лі
**monthly**[1] [ˈmʌnθli] *n.* **1.** штоме́сячнае, перыяды́чнае выда́нне (*часопіс*) **2.** *pl.* **monthlies** *infml* ме́сячныя, менструа́цыя
**monthly**[2] [ˈmʌnθli] *adj.* штоме́сячны, ме́сячны; **a monthly journal/magazine** штоме́сячны часо́піс; **a monthly salary** ме́сячная зарпла́та; **a monthly ticket** ме́сячны праязны́ біле́т
**monthly**[3] [ˈmʌnθli] *adv.* штоме́сяц, штоме́сячна, ко́жны ме́сяц; *She gets paid monthly.* Ёй плацяць грошы памесячна.
**monument** [ˈmɒnjumənt] *n.* **(to)** по́мнік; **a monument to soldiers killed in battle** по́мнік салда́там, што (які́я) загі́нулі на вайне́
**monumental** [ˌmɒnjuˈmentl] *adj.* манумента́льны, грандыёзны, ве́лічны
**moo** [muː] *v.* рыка́ць, мы́каць (*пра карову*)
**mood**[1] [muːd] *n.* **1.** настро́й; **be in a good/bad mood** быць у дрэ́нным/до́брым настро́і; **be in a mood** быць зло́сным/нецярплі́вым; **be in no mood/be not in the mood (for)** не жада́ць, не хаце́ць; *I'm not in the mood for work.* У мяне няма жадання працаваць. **2. (of)** атмасфе́ра; дух (*часу, асяроддзя*); *The film captures the mood of postwar Italy.* Фільм передае атмасферу пасляваеннай Італіі.
**mood**[2] [muːd] *n. ling.* лад; **the indicative/imperative/subjunctive mood** абве́сны/зага́дны/ умо́ўны лад
**moodily** [ˈmuːdɪli] *adv.* су́мна, марко́тна, тужлі́ва

**moodiness** [ˈmuːdɪnəs] *n.* **1.** смýтак, журбá **2.** дрэ́нны настрóй

**moody** [ˈmuːdi] *adj.* **1.** (*пра чалавека*) які́ ча́ста і хýтка змяня́е свой настрóй **2.** у дрэ́нным настрóі; *Why are you so moody today?* Чаму ў цябе сёння такі дрэнны настрой? **3.** сýмны, смýтны, маркóтны (*пра фільм, музыку, месца*)

**moon**[1] [muːn] *n.* мéсяц; **a full moon** пóўня; **a new moon** маладзі́к; **the moon wanes** мéсяц убывáе; **the moon waxes** мéсяц прыбывáе **2.** спадарóжнік (*планеты*); **Jupiter's moons** спадарóжнікі Юпі́тэра ♦ **ask/cry for the moon** *infml* жадáць абó патрабавáць немагчы́мага; **be over the moon** *infml* быць/адчувáць сябé на сёмым нéбе; **once in a blue moon** вéльмі рэ́дка, амáль ніко́лі

**moon**[2] [muːn] *v. infml* **1. (about/around)** *BrE* гультаявáць; снóўдацца, бадзя́цца **2. (over)** мáрыць (*аб кім-н.*), летуцéніць

**moonbeam** [ˈmuːnbiːm] *n.* прамéнь мéсяца

**moonlight**[1] [ˈmuːnlaɪt] *n.* святлó мéсяца; **in the moonlight/by moonlight** пры святлé мéсяца

**moonlight**[2] [ˈmuːnlaɪt] *v. infml* (тáйна) працавáць у і́ншым мéсцы, акрамя́ аснóўнага (*і звычайна не плаціць пры гэтым дадатковыя падаткі*)

**Moor** [mʊə] *n.* **1.** маўрытáнец; маўрытáнка **2.** маўр

**moor**[1] [mɔː, mʊə] *n. звыч. pl.* **moors** адкры́тая мясцóвасць (*звыч. на ўзвышшы*); мéсца на бéднай глебе, якóе зараслó травóй і вéрасам; **heather moors** верасóвыя пýсткі

**moor**[2] [mɔː, mʊə] *v.* **(to)** швартавáцца

**Moorish** [ˈmʊərɪʃ] *adj.* маўрытáнскі

**mooring** [ˈmʊərɪŋ] *n.* **1.** мéсца швартóўкі **2.** *звыч. pl.* **moorings** швартóвы

**moorland** [ˈmʊələnd] *n.* верасóвая пýстка

**moose** [muːs] *n. zool.* (*pl.* **moose**) паўночнаамерыкáнскі алéнь

**moot**[1] [muːt] *adj.* **1.** спрэ́чны; **a moot question/point** спрэ́чнае пытáнне **2.** *AmE* малаверагóдны

**moot**[2] [muːt] *v. fml* вынóсіць на абмеркавáнне, прапанóўваць для дыскýсіі

**mop**[1] [mɒp] *n.* **1.** швáбра (*для мыцця падлогі*) **2.** гýбка (*на кароткай ручцы для мыцця посуду*) **3.** капá (*валасоў*)

**mop**[2] [mɒp] *v.* **1.** мыць (*падлогу швабрай, посуд губкай*) **2.** выцірáць (*вадкасць, пот, кроў і да т.п.*)

**mop up** [ˌmɒpˈʌp] *phr.v.* знішчáць

**moral**[1] [ˈmɒrəl] *n.* **1.** *pl.* **morals** нóрмы марáльных павóдзін; **a man of good morals** высокамарáльны чалавéк **2. (of)** марáль, павучáнне; **the moral of the fable** марáль бáйкі

**moral**[2] [ˈmɒrəl] *adj.* **1.** марáльны; эты́чны; **moral values** марáльныя каштóўнасці; **a moral obligation/right** марáльны абавя́зак/марáльнае прáва; **a moral person** высокамарáльны чалавéк **2.** павучáльны; **a moral story/play** павучáльная гістóрыя/п'éса

**morale** [məˈrɑːl] *n.* марáльны стан; баявы́ дух (*войска*); **boost/raise/improve morale** узнімáць/паляпшáць марáльны стан, баявы́ дух

**morality** [məˈrælɪti] *n.* марáльныя пры́нцыпы; э́тыка

**moralize,** *BrE* **-ise** [ˈmɒrəlaɪz] *v.* маралізавáць, павучáць (*звыч. неадабральна*)

**morally** [ˈmɒrəli] *adv.* марáльна; дабрачы́нна; **be morally responsible (for)** быць марáльна адкáзным (за); **live morally** вéсці дабрачы́нны лад жыцця́

**moratoria** [ˌmɒrəˈtɔːriə] *pl.* → **moratorium**

**moratorium** [ˌmɒrəˈtɔːriəm] *n.* (*pl.* **moratoriums** *or* **moratoria**) **(on)** маратóрый; **a two-year moratorium on nuclear testing** двухгадóвы маратóрый на я́дзерныя выпрабавáнні

**morbid** [ˈmɔːbɪd] *adj.* **1.** нездарóвы, хваравíты, ненатурáльны; **a morbid interest/imagination** нездарóвы інтарэ́с/хваравíтая фантáзія **2.** жýдасны, агі́дны

**more**[1] [mɔː] *adj.* (*выш. ст. ад* **many, much**) больш, бóлей; **a little/a bit more** крыхý больш; **much/far more** шмат больш; **one day more/one more day** яшчэ́ адзі́н дзень; *We stayed there two more days.* Мы засталіся там яшчэ на 2 дні. ♦ **more and more** усё больш; *More and more people are using the Internet.* Усё больш людзей карыстаюцца інтэрнэтам.

**more**[2] [mɔː] *adv.* (*выш. ст. ад* **much**) **1.** больш, бóлей; *They don't live here any more.* Яны тут больш не жывуць. **2.** (*ужываецца для ўтварэння выш. ст. прыметнікаў і прыслоўяў*) **:** *Read the text more carefully.* Прачытайце тэкст больш уважліва. ♦ **more or less** больш-менш, амáль; **what is more** нáват больш; больш тагó; *You are wrong and what's more you know it.* Ты не маеш рацыі, і больш таго – ты ведаеш гэта.

**moreover** [mɔːrˈəʊvə] *adv. fml* акрамя́ тагó, да тагó ж

**morgue** [mɔːg] *n.* морг

**moribund** [ˈmɒrɪbʌnd] *adj. fml* у вéльмі дрэ́нным стáне; які́ памірáе/вымірáе; **a moribund economy** эканóміка, якáя знахóдзіцца ў вéльмі дрэ́нным стáне; **a moribund patient** хвóры, які́ памірáе

**Mormon** [ˈmɔːmən] *n.* мармо́н

**morning** [ˈmɔːnɪŋ] *n.* **1.** ра́ніца; **this/yesterday/tomorrow morning** сёння/учо́ра/за́ўтра ра́ніцай; **on Tuesday morning** ра́ніцай у аўто́рак; **a morning paper** ра́нішняя газе́та; *Good morning!* 1) Добрай раніцы! (*прывітанне*) 2) *fml* Да пабачэння!; **Morning!** *infml* До́брай ра́ніцы! **2.** ча́стка дня ад по́ўначы да по́ўдня насту́пнага дня; *The telephone rang at three in the morning.* Тэлефон зазваніў у 3 гадзіны ночы.

**Moroccan**[1] [məˈrɒkən] *n.* марака́нец; марака́нка; **the Moroccans** марака́нцы

**Moroccan**[2] [məˈrɒkən] *adj.* марака́нскі

**moron** [ˈmɔːrɒn] *n. infml* ідыёт

**morose** [məˈrəʊs] *adj.* хму́ры, пану́ры; замкнёны

**morpheme** [ˈmɔːfiːm] *n. ling.* марфе́ма

**morphine** [ˈmɔːfiːn] *n.* мо́рфій

**morphology** [mɔːˈfɒlədʒi] *n. ling.* марфало́гія

**morsel** [ˈmɔːsl] *n.* ве́льмі малы́ кава́лачак (*чаго-н.*)

**mortal**[1] [ˈmɔːtl] *n.* сме́ртны; **a mere/an ordinary mortal** про́сты сме́ртны

**mortal**[2] [ˈmɔːtl] *adj.* **1.** сме́ртны; *We are all mortal.* Мы ўсе смертныя. **2.** смяро́тны; смярто́льны; **a mortal wound** смяро́тная ра́на; **a mortal sin** смяро́тны грэх **3.** *fml* страшэ́нны (*пра страх і да т.п.*)

**mortality** [mɔːˈtæləti] *n.* смяро́тнасць; сме́ртнасць; *Mortality from cancer is increasing.* Смяротнасць ад раку павялічваецца; **the mortality rate/rate of mortality** узро́вень смяро́тнасці

**mortar** [ˈmɔːtə] *n.* **1.** раство́р (*з цэментам або вапнай*) **2.** сту́па, сту́пка; **a mortar and pestle** сту́п(к)а і таўка́ч **3.** *mil.* марці́ра

**mortgage**[1] [ˈmɔːgɪdʒ] *n.* закла́д, закладна́я; іпатэ́ка; **take out a mortgage** закла́сці, адда́ць у закла́д, атрыма́ць пазы́ку пад закладну́ю; **pay off a mortgage** вы́купіць закладну́ю, вы́купіць з закла́ду; **the mortgage term** тэ́рмін закладно́й

**mortgage**[2] [ˈmɔːgɪdʒ] *v.* залажы́ць (*дом, зямлю і да т.п.*)

**mortify** [ˈmɔːtɪfaɪ] *v.* зневажа́ць; крыўдзіць; бянтэ́жыць

**mosaic** [məʊˈzeɪɪk] *n.* маза́іка

**mosque** [mɒsk] *n.* мячэ́ць

**mosquito** [məˈskiːtəʊ] *n.* (*pl.* **mosquitoes** *or* **mosquitos**) маскі́т; кама́р

**moss** [mɒs] *n.* мох

**most**[1] [məʊst] *pron.* (*найвыш. ст. ад* **many, much, a lot of**) бо́льшая ча́стка, бо́льшасць; **for the most part** у асно́ўным; *I spend most of the time at home.* Я праводжу большасць часу дома; *Most of the building was damaged by the fire.* Большая частка будынка была пашкоджана пажарам. ♦ **at (the) most** не больш чым; *There were 20 people there, at the most.* Там было не больш за 20 чалавек.

**most**[2] [məʊst] *adv.* **1.** (*найвыш. ст. ад* **much**) найбо́льш, бо́лей; *What do you like here* (*the*) *most?* Што вам тут падабаецца найбольш? **2.** (*ужываецца для ўтварэння найвыш. ст. ад прыметнікаў і прыслоўяў*) са́мы, найбо́льш; **the most beautiful place** са́мае прыго́жае ме́сца; *This fact is mentioned most frequently.* Гэты факт узгадваюць найбольш часта. **3.** *fml* ве́льмі, надзвыча́йна; *It's a most beautiful place.* Гэта вельмі прыгожае месца. **4.** *AmE* ама́ль; *I go to the store most every day.* Я хаджу ў краму амаль кожны дзень.

**mostly** [ˈməʊstli] *adv.* галоўным чы́нам; у бо́льшай ча́стцы; звыча́йна; *I work mostly in the morning.* Я працую галоўным чынам раніцай; *They are mostly out on Sundays.* У нядзелю іх звычайна няма дома.

**motel** [məʊˈtel] *n.* матэ́ль

**moth** [mɒθ] *n.* **1.** матылёк, маты́ль (*звыч. начны*) **2. : a (clothes) moth** моль

**mother**[1] [ˈmʌðə] *n.* **1.** ма́ці, ма́ма; **an expectant mother** цяжа́рная жанчы́на; **2. Mother** *eccl.* ма́ці-ігу́меня ♦ **a mother's boy** *BrE* ма́мчын сыно́к; **at your mother's knee** калі́ ты быў яшчэ́ ве́льмі малы́

**mother**[2] [ˈmʌðə] *v.* абыхо́дзіцца (*з кім-н.*) з любо́ўю і кло́патам; ста́віцца (*да каго-н.*) як ма́ці

**mother country** [ˈmʌðəˌkʌntri] *n.* айчы́на, радзі́ма

**motherhood** [ˈmʌðəhʊd] *n.* мацяры́нства

**mother-in-law** [ˈmʌðərɪŋlɔː] *n.* (*pl.* **mothers-in-law**) це́шча; свякро́ў, свякру́ха

**motherland** [ˈmʌðəlænd] *n.* радзі́ма, айчы́на

**motherless** [ˈmʌðələs] *adj.* пазба́ўлены ма́ці; які́ не ма́е ма́ці

**motherly** [ˈmʌðəli] *adj.* мацяры́нскі; **motherly instinct** мацяры́нскі інсты́нкт

**mother-of-pearl** [ˌmʌðərəfˈpɜːl] *n.* перламу́тр

**mother tongue** [ˌmʌðəˈtʌŋ] *n.* ро́дная мо́ва

**motif** [məʊˈtiːf] *n.* **1.** лейтматы́ў, асно́ўная тэ́ма (*у музыцы, літаратуры*) **2.** маты́ў, элеме́нт (*арнаменту*)

**motion**[1] [ˈməʊʃn] *n.* **1.** рух; ход; **Newton's laws of motion** зако́ны ру́ху Ньюта́на; **be in motion** ру́хацца **2.** жэст, рух (*рукі або галавы*) **3.** прапано́ва; **adopt/pass/carry a motion** прыня́ць прапано́ву; **table/propose/put forward a motion** зрабі́ць/уне́сці прапано́ву; **reject a motion** адхілі́ць прапано́ву **4.** *med.* стул, спа-

ражнéнне, выпаражнéнне ♦ **go through the motions** рабíць, гаварьíць (*што-н.*) насýперак жадáнню; **put/set in motion** прывóдзіць у рух

**motion²** [ˈməʊʃn] *v.* зрабíць жэст, рух рукóй (*як запрашэнне або загад*); *He motioned me in.* Ён жэстам запрасіў мяне ўвайсці.

**motionless** [ˈməʊʃnləs] *adj.* нерухóмы

**motion picture** [ˌməʊʃnˈpɪktʃə] *n. AmE* кінафíльм; **the motion picture industry** кінаіндýстрыя

**motivate** [ˈməʊtɪveɪt] *v.* **1.** матывавáць, прывóдзіць дóвады на карьíсць чагó-н. **2.** прымушáць, вымушáць (кагó-н.) рабíць (што-н.); *How do you motivate people to work efficiently?* Чым вы заахвочваеце людзей працаваць эфектыўна?

**motivated** [ˈməʊtɪveɪtɪd] *adj.* матывавáны; **politically/financially motivated** палітьíчна/фінáнсава матывавáны; **highly motivated** матывавáны ў высóкай ступéні

**motivation** [ˌməʊtɪˈveɪʃn] *n.* **1.** матывáцыя **2. (for)** прычьíна; *What is the motivation for your sudden resignation?* Якая прычына вашай нечаканай адстаўкі?

**motive** [ˈməʊtɪv] *n.* матьíў, стьíмул

**motley** [ˈmɒtli] *adj.* **1.** *derog.* разнастáйны; разнашэ́рсны, разнамáсны **2.** рознакалярóвы, разнакóлерны; стракáты

**motor** [ˈməʊtə] *n.* **1.** матóр, рухавíк **2.** *BrE, infml* машьíна, аўтамабíль

**motorbike** [ˈməʊtəbaɪk] *n.* матацьíкл

**motorcar** [ˈməʊtəkɑː] *n.* (*легкавы*) аўтамабíль

**motorcycle** [ˈməʊtəˌsaɪkl] *n.* матацьíкл

**motorcyclist** [ˈməʊtəˌsaɪklɪst] *n.* матацыклíст

**motoring** [ˈməʊtərɪŋ] *n.* **1.** аўтамабілíзм **2.** яздá на аўтамабíлі; **motoring offences** парушэ́нні прáвіл рýху на аўтамабíлі

**motorist** [ˈməʊtərɪst] *n.* аўтамабілíст

**motorway** [ˈməʊtəweɪ] *n. BrE* хýткасная шашá, аўтамагістрáль

**motto** [ˈmɒtəʊ] *n.* (*pl.* **mottoes** *or* **mottos**) дэвíз

**mould¹** [məʊld] *n. BrE* **1.** фóрма, фóрмачка; шаблóн **2.** харáктар ♦ **break the mould** парушáць традьíцыю, адступáць ад шаблóну; **be cast in the same mould** быць аднóлькавым (*з кім-н.*), ≅ з аднагó цéста

**mould²** [məʊld] *v. BrE* **1.** адлівáць у фóрму, фармавáць **2.** рабíць па шаблóне **3. (into)** стварáць, фарміравáць, ператварáць; **mould public opinion** фарміравáць грамáдскую дýмку; **mould smb.'s character** фарміравáць харáктар кагó-н. **4.** аблягáць; *Her wet dress moulded her slender figure.* Мокрая сукенка аблягала яе стройную фігуру.

**mould³** [məʊld] *n.* цвіль, плéсня

**moulding** [ˈməʊldɪŋ] *n. BrE* багéт (*аздабленне на дзвярах, уверсе сцяны, рамка карціны і да т.п.*)

**mouldy** [ˈməʊldi] *adj. BrE* цвілы́, заплéснелы, запляснéлы

**moult** [məʊlt] *v. BrE* ліня́ць (*пра жывёл або птушак*)

**mound** [maʊnd] *n.* **1.** кургáн; **a burial mound** магíльны кургáн **2.** кýча, грýда

**Mount** [maʊnt] *n.* гарá (*ужываецца толькі як частка тапоніма*); **Mount Everest** гарá Эверэ́ст

**mount¹** [maʊnt] *n.* **1.** *fml or lit.* конь **2.** падстáўка; стэнд **3.** рáмка; аправа

**mount²** [maʊnt] *v.* **1.** разгарнýць; арганізавáць (*кампанію, выставу*) **2.** павялíчвацца, узрастáць; *Mortality continues to mount.* Смяротнасць працягвае ўзрастаць. **3.** *fml* падымáцца; *She slowly mounted the stairs.* Яна павольна паднялася па сходах. **4.** садзíцца (*на каня, веласіпед*) **5.** устаўля́ць у рáмку (*карціну, фатакартку*)

**mountain** [ˈmaʊntən] *n.* **1.** гарá; **a chain/range of mountains** ланцýг гор; *We spent a week in the mountains.* Мы правялі тыдзень у гарах. **2. (of)** *infml* мнóства, шмат, кýча

**mountaineer** [ˌmaʊntəˈnɪə] *n.* альпінíст

**mountaineering** [ˌmaʊntəˈnɪərɪŋ] *n.* альпінíзм

**mountainous** [ˈmaʊntənəs] *adj.* **1.** гарьíсты **2.** вéльмі вялíкі, вялíзны, велізáрны

**mounted** [ˈmaʊntɪd] *adj.* **1.** кóнны; **the mounted police** кóнная палíцыя **2.** пастáўлены, замацавáны (*на чым-н.*)

**mourn** [mɔːn] *v.* аплáкваць, смуткавáць; *They mourned the loss of their leader.* Яны аплаквалі страту свайго правадыра.

**mourner** [ˈmɔːnə] *n.* **1.** той, хто прысýтнічае на пахавáнні **2.** плáкальшчык; плáкальшчыца

**mournful** [ˈmɔːnfəl] *adj.* вéльмі сýмны, смýтны; **mournful eyes/music** (вéльмі) сýмныя вóчы/сýмная мýзыка

**mourning** [ˈmɔːnɪŋ] *n.* жалóба; **be in mourning** быць у жалóбе; насíць жалóбу

**mouse** [maʊs] *n.* (*pl.* **mice**) **1.** мыш **2.** (*pl. таксама* **mouses**) *comput.* мыш

**mousetrap** [ˈmaʊstræp] *n.* пáстка

**mousse** [muːs] *n.* **1.** мус; **a chocolate/strawberry mousse** шакалáдны/клубнíчны мус **2.** пéністы крэм (*для ўкладкі валасоў*)

**moustache** [məˈstɑːʃ] *n. BrE* **1.** вýсы **2.** *pl.* **moustaches** вéльмі дóўгія вýсы

**mouth¹** [maʊθ] *n.* (*pl.* **mouths** [maʊðz]) **1.** рот; **in the mouth** у рóце; **2. :** *He has five mouths to*

*feed.* Яму трэба карміць пяць ратоў. **3.** адту́ліна; увахо́д; **the mouth of the tunnel** увахо́д у тунэ́ль **4.** ву́сце (*ракі*) **5.** ры́льца (*бутэлькі*) ♦ **have a big mouth** 1) гавары́ць гу́чна і мно́га 2) гавары́ць наха́бна; **keep one's mouth shut** маўча́ць, не выдава́ць сакрэ́т; *Shut your mouth!* Замаўчы!; **live from hand to mouth** жыць у бе́днасці; **my mouth waters** у мяне́ слі́нка цячэ́

**mouth²** [maʊð] *v.* **1.** ру́хаць бязгу́чна губа́мі **2.** гавары́ць напы́шліва, ара́тарстваваць; *They are just mouthing empty slogans.* Яны толькі выкрыкваюць пустыя лозунгі.

**mouthful** [ˈmaʊθfʊl] *n.* **1.** по́ўны рот; глыто́к; *She took a mouthful of water.* Яна набрала ў рот вады. **2.** *infml* до́ўгі вы́раз/сло́ва, яко́е ця́жка вы́мавіць **3.** *AmE, infml* сказа́ць што-н. незвыча́йна ва́жнае ♦ *You've* ***said a mouthful!*** Залатыя вашы словы!

**mouthpiece** [ˈmaʊθpiːs] *n.* **1.** мікрафо́н (*у тэлефоннай трубцы*) **2.** мушту́к **3. (of/for)** ру́пар (*перан.*)

**movable** [ˈmuːvəbl] *adj.* (*таксама* **moveable**) рухо́мы; **a doll with movable eyes** ля́лька, яка́я заплю́шчвае і расплю́шчвае во́чы; **a movable feast** (*рэлігійнае*) свя́та, да́та яко́га мяня́ецца з го́да ў год

**move¹** [muːv] *n.* **1.** крок, учы́нак; **a wise/good move** разу́мны крок; **a false move** памылко́вы крок **2.** рух; *His eyes followed her every move.* Яго вочы сачылі за кожным яе рухам. **3.** перае́зд **4.** ход (*у гульні*) ♦ **be on the move** не застава́цца на адны́м ме́сцы; **Get a move on!** *infml* Паспяша́йся!

**move²** [muːv] *v.* **1.** ру́хаць; ру́хацца; *I can't move my fingers.* Я не магу паварушыць пальцамі; *Don't move!* Не рухайся! **2.** пераязджа́ць; *Their office moved to a new building.* Іхні офіс пераехаў у новы будынак. **3.** мяня́ць (*месца, працу, інтарэсы*); *He often moved jobs.* Ён часта мяняў месца працы. **4.** хваліва́ць, крана́ць, узру́шваць; *The sight moved him to tears.* Гэта сцэна кранула яго да слёз. **5.** *fml* уно́сіць прапано́ву, прапанава́ць; *He moved that the meeting should be adjourned.* Ён прапанаваў адкласці сход. **6.** *fml* вымуша́ць, прымуша́ць; *He works when the spirit moves him.* Ён працуе, калі ў яго ёсць настрой.

**move about** [ˌmuːvəˈbaʊt] *phr.v.* **1.** перастаўля́ць; *They moved the furniture about.* Яны пераставілі мэблю; *He was moved about a lot.* Яго часта пераводзілі з адной пасады на другую. **2.** пераязджа́ць; раз'язджа́ць; *He moves about a lot.* Ён многа раз'язджае.

**move along** [ˌmuːvəˈlɒŋ] *phr.v.* ісці́ дале́й; праця́гваць рух; *Move along there, please!* Праходзьце, калі ласка! Не затрымлівайцеся!

**move around** [ˌmuːvəˈraʊnd] *phr.v.* = **move about**

**move in** [ˌmuːvˈɪn] *phr.v.* **1.** сялі́цца (*з кім-н.*), уязджа́ць у кватэ́ру; *They moved in next door.* Яны пасяліліся ў суседняй кватэры. **2.** уво́дзіць; *Troops were moved in.* Былі ўведзены войскі.

**move off** [ˌmuːvˈɒf] *phr.v.* крана́цца (*з месца*), пачына́ць ру́хацца; *The train moved off.* Цягнік крануўся.

**move on** [ˌmuːvˈɒn] *phr.v.* **1.** ру́хаць напе́рад; ру́хацца напе́рад; *He moved on the hands of the clock.* Ён перавёў стрэлкі гадзінніка наперад; *She stopped and then moved on.* Яна спынілася, а потым зноў пайшла. **2.** загада́ць адысці́, прыму́сіць адысці́; *The police moved the crowd on.* Паліцыя прымусіла натоўп адысці. **3.** мяня́ць ме́сца пра́цы; *She moved on to a better job.* Яна перайшла на лепшую работу.

**move out** [ˌmuːvˈaʊt] *phr.v.* высяля́ць; высяля́цца

**move up** [ˌmuːvˈʌp] *phr.v.* **1.** пасу́нуць; пасу́нуцца; *Can you move up a few seats?* Ці не маглі б вы перасесці на некалькі месцаў? **2.** прасу́нуць; прасу́нуцца; даць/атрыма́ць павышэ́нне; *Last year he was moved up.* Летась ён атрымаў павышэнне. **3.** павялі́чыць; павялі́чыцца; *Prices moved up.* Цэны выраслі.

**moveable** [ˈmuːvəbl] *adj.* = **movable**

**moved** [muːvd] *adj.* усхвалява́ны, крану́ты, узру́шаны

**movement** [ˈmuːvmənt] *n.* **1.** рух (*палітычны, грамадскі і да т.п.*); **the civil rights movement** рух за грамадзя́нскія правы́ **2.** рух, жэст; **the dancer's movements** ру́хі танцо́ра **3.** перамяшчэ́нне; **troop movement** перамяшчэ́нне войск **4.** развіццё, прагрэ́с; *There is no movement in arms control.* Няма прагрэсу ў пытанні кантролю за ўзбраеннем. **5.** ча́стка (*музычнага твора, асабліва сімфоніі*); *The first movements of Beethoven's Third symphony.* Першая частка Трэцяй сімфоніі Бетховена.

**mover** [ˈmuːvə] *n.* **1.** ініцыя́тар (*ідэі, прапановы*) **2.** асо́ба/рэч, яка́я ру́хаецца пэ́ўным чы́нам; *She is a great mover on the dance floor.* Яна вельмі прыгожа танцуе. **3.** *AmE* пераво́зчык мэ́блі пры перае́здзе

**movie** [ˈmuːvi] *n.* **1.** *AmE* фільм, кінакарці́на **2. the movies** *AmE* кіно́; *Let's go to the movies.* Давай сходзім у кіно.

**moviegoer** [ˈmuːviˌɡəʊə] *n. AmE* ама́тар/любі́цель кіно́; ама́тарка/любі́целька кіно́

**moving** [ˈmuːvɪŋ] *adj.* **1.** хвалю́ючы; *His speech was very moving.* Яго прамо́ва была́ ве́льмі хвалю́ючай. **2.** рухо́мы; **the moving parts of a machine** рухо́мыя ча́сткі механі́зма

**mow** [məʊ] *v.* **(mowed, mown** *or* **mowed)** касі́ць

**mower** [ˈməʊə] *n.* касі́лка

**mown** [məʊn] *p.p.*→ **mow**

**MP** [ˌemˈpiː] *n.* (*скар. ад* **Member of Parliament**) член парла́мента

**mph** (*пісьмовае скар. ад* **miles per hour**) ко́лькасць міль за гадзі́ну; **a 60 mph speed limit** абмежава́нне ху́ткасці да 60 міль у гадзі́ну

**Mr** *n.* (*пісьмовае скар. ад* **Mister**) **1.** мі́стар, пан, спада́р (*ужываецца перад прозвішчам або поўным імем мужчыны*); **Mr Grant** мі́стар Грант; **Mr John Grant** мі́стар Джон Грант **2.** пан (*ужываецца перад тытулам афіцыйнай асобы*); **Mr President** пан прэзідэ́нт; **Mr Chairman** пан старшыня́

**Mrs** *n.* (*пісьмовае скар. перад прозвішчам замужняй жанчыны*) мі́сіс, спада́рыня, па́ні; **Mrs Miles** мі́сіс Майлз

**Ms** *n. BrE* (*пісьмовае скар. перад прозвішчам жанчыны, чый сямейны статус не ўдакладняецца*) **: Ms Miles** па́ні Майлз

**MSc** [ˌemesˈsiː] *n.* (*скар. ад* **Master of Science**) ступе́нь магі́стра ў навуко́вай галіне́; **have an MSc** мець ступе́нь магі́стра

**Mt** (*пісьмовае скар. ад* **Mountain**) (*асабліва на геаграфічных картах*) гара́; **Mt Everest** гара́ Эверэ́ст; **Rocky Mts** Скалі́стыя го́ры

**much¹** [mʌtʃ] *n.* шмат што, мно́гае, бага́та што; *Much still remains to be done*. Шмат чаго яшчэ застаецца зрабіць.

**much²** [mʌtʃ] *adj.* **(more, most)** шмат, мно́га, бага́та; **much water** мно́га вады́; **much time** шмат ча́су

**much³** [mʌtʃ] *adv.* **(more, most) 1.** ве́льмі, мо́цна; **be much surprised** мо́цна, ве́льмі здзіві́цца; **be much obliged** быць ве́льмі ўдзя́чным; **be very much aware of smth.** ве́льмі до́бра ўсведамля́ць сабе́ што-н. **2.** мно́га, шмат; **eat/drink/talk (too) much** (зана́дта) мно́га е́сці/піць/размаўля́ць **3.** намно́га, зна́чна; **much faster/better/worse** зна́чна хутчэ́й/лепш/горш **4.** прыблі́зна, ама́ль што; **be much the same age** быць прыблі́зна аднаго́ ўзро́сту ♦ **as much** і́менна, менаві́та, якра́з; **as much as** сто́лькі, ко́лькі; **as much as twice** удвая́ больш; **be too much for smb.** быць не па сі́лах/не пад сі́лу каму́-н.; **how much** ко́лькі; *He is **not much of** a tennis player.* Ён вельмі пасрэдна гуляе ў тэніс.

**muck¹** [mʌk] *n.* **1.** *BrE*, *infml* бруд, гразь **2.** гной, памёт **3.** га́дасць, паску́дства; *How can you eat this muck?* Як ты можаш есці гэтую гадасць?

**muck²** [mʌk] *v.* угно́йваць (*глебу*)

**muck about** [ˌmʌkəˈbaʊt] *phr.v. BrE, infml* **1.** лайда́чыць, стро́іць ду́рня, гультаява́ць, хвара́ць на па́на **2.** прычыня́ць нязру́чнасць

**muck in** [ˌmʌkˈɪn] *phr.v. BrE, infml* ра́зам бра́цца (*за якую-н. справу*)

**muck out** [ˌmʌkˈaʊt] *phr.v.* пачы́сціць (*хлеў, стайню*)

**muck up** [ˌmʌkˈʌp] *phr.v. BrE, infml* **1.** пэ́цкаць, забру́джваць **2.** сапсава́ць; завалі́ць (*план, задумку і да т.п.*); *He mucked up his last exam.* Ён заваліў апошні экзамен.

**mucus** [ˈmjuːkəs] *n.* слізь

**mud** [mʌd] *n.* гразь; бруд; **a mud hut** земля́нка ♦ **throw/fling/sling mud (at smb.)** аблі́ва́ць гра́ззю (каго́-н.) (*асабліва ў палітыцы*)

**muddle¹** [ˈmʌdl] *n.* блытані́на; бязла́ддзе; непара́дак; *My thoughts are all in a muddle.* У мяне ў думках поўная блытаніна.

**muddle²** [ˈmʌdl] *v.* блы́таць

**muddle along** [ˌmʌdləˈlɒŋ] *phr.v.* дзе́йнічаць наўздага́д

**muddle through** [ˌmʌdlˈθruː] *phr.v.* спра́віцца (*якім-н. чынам, так або інакш*); *Somehow our firm will muddle through the next five years.* Якнебудзь наша фірма яшчэ праіснуе наступныя пяць гадоў.

**muddle up** [ˌmʌdlˈʌp] *phr.v.* блы́таць, перабл́ытваць; паруша́ць пара́дак; прыво́дзіць у бязла́ддзе; *Don't muddle me up!* Не блытай мяне!

**muddy¹** [ˈmʌdi] *adj.* **1.** гра́зкі; **a muddy track** гра́зкая даро́га **2.** запэ́цканы гра́ззю, бру́дны; **muddy boots** запэ́цканыя гра́ззю бо́ты **3.** му́тны; **muddy water** му́тная вада́

**muddy²** [ˈmʌdi] *v.* забру́джваць ♦ **muddy the waters** муці́ць ваду́

**muesli** [ˈmjuːzli] *n. BrE* мю́слі

**muff¹** [mʌf] *n.* му́фта (*футравая*)

**muff²** [mʌf] *v. infml* псава́ць; памыля́цца; **a muffed opportunity** прапу́шчаная магчы́масць

**muffin** [ˈmʌfɪn] *n. BrE* мале́нькая бу́лачка (*якую ядуць гарачай з маслам*)

**muffle** [ˈmʌfl] *v.* **1.** глушы́ць, прыглу́шваць (*пра гукі*); **muffled voices** прыглу́шаныя галасы́ **2.** ху́таць, заху́тваць; захіна́ць; *She muffled the child up in a blanket.* Яна захутала дзіця ў

коўдру; **muffle oneself** ху́тацца, заху́твацца; захіна́цца
**muffler** [ˈmʌflə] *n.* **1.** *dated* ша́лік **2.** *AmE* глушы́цель
**mug**[1] [mʌg] *n.* (высо́кі) ку́бак; **a beer mug** піўны́ ку́бак
**mug**[2] [mʌg] *n. infml* ду́рань ♦ **a mug's game** заня́так для ду́рняў
**mug**[3] [mʌg] *n. slang* мо́рда, ры́ла
**mug**[4] [mʌg] *v.* **1.** напада́ць на каго́-н. на ву́ліцы з мэ́тай грабяжу́, гра́біць, рабава́ць **2. (for)** *AmE, infml* грыма́снічаць; **mug for the camera** грыма́снічаць пе́рад ка́мерай
**mug up** [ˌmʌgˈʌp] *phr.v. BrE, infml* зубры́ць
**mugger** [ˈmʌgə] *n.* ву́лічны грабе́жнік, рабаўні́к
**mulatto** [mjuˈlætəʊ] *n.* мула́т
**mulberry** [ˈmʌlbəri] *n.* **1.** *bot.* ту́тавае дрэ́ва, шаўко́ўніца **2.** барво́вы, цёмна-чырво́ны ко́лер
**mulch**[1] [mʌltʃ] *n.* му́льча
**mulch**[2] [mʌltʃ] *v.* мульчы́раваць
**mule** [mju:l] *n.* **1.** мул; **2.** шлёпанец, панто́фля **3.** *infml* кантрабанды́ст, які́ перапраўля́е нарко́тыкі ♦ **as stubborn as a mule** упа́рты як асёл
**mull over** [ˌmʌlˈəʊvə] *phr.v.* **1.** абду́мваць **2.** абмярко́ўваць
**mullah** [ˈmʌlə] *n.* мула́
**mullet** [ˈmʌlɪt] *n.* (*pl.* **mullet**) *zool.* кефа́ль
**multi-coloured** [ˌmʌltiˈkʌləd] *adj.* шматкаляро́вы, шматко́лерны
**multilateral** [ˌmʌltiˈlætərəl] *adj.* шматбако́вы; **multilateral trade talks** шматбако́выя гандлёвыя перагаво́ры
**multimedia** [ˌmʌltiˈmi:diə] *adj.* які́ выкарысто́ўвае ро́зныя сро́дкі інфарма́цыі
**multinational**[1] [ˌmʌltiˈnæʃnəl] *n.* міжнаро́дная або́ транснацыяна́льная кампа́нія
**multinational**[2] [ˌmʌltiˈnæʃnəl] *adj.* шматнацыяна́льны
**multiple**[1] [ˈmʌltɪpl] *n. math.* кра́тнае
**multiple**[2] [ˈmʌltɪpl] *adj.* шматлі́кі; **multiple copies** шматлі́кія ко́піі; **multiple injuries/wounds** шматлі́кія ра́ны; **a multiple entry visa** шматразо́вая ўязна́я ві́за
**multiple sclerosis** [ˌmʌltɪplskləˈrəʊsɪs] *n. med.* рассе́яны склеро́з
**multiplication table** [ˌmʌltɪplɪˈkeɪʃnˌteɪbl] *n.* таблі́ца мно́жання
**multiplicity** [ˌmʌltɪˈplɪsəti] *n.* **(of)** *fml* мно́ства, вялі́кая разнаста́йнасць (*чаго-н.*); **a multiplicity of different factors** мно́ства ро́зных фа́ктараў
**multiply** [ˈmʌltɪplaɪ] *v.* **1.** мно́жыць, памнажа́ць; *2 multiplied by 3 is/equals/makes 6.* Два памножанае на тры раўняецца шасці́. **2.** павялі́чваць; павялі́чвацца; *Every time he multiplied his demands.* Кожны раз ён павялічваў свае патрабаванні. **3.** размнажа́цца, размно́жвацца; *Rabbits multiply rapidly.* Трусы хутка размнажаюцца.
**multitude** [ˈmʌltɪtju:d] *n.* **(of) 1.** вялі́кае мно́ства; **a multitude of problems/birds** вялі́кае мно́ства праблé́м/пту́шак **2.** *fml* нато́ўп **3. the multitude** ма́сы; *The truth was hidden from the multitude.* Праўда была ўтоена ад мас.
**mummy**[1] [ˈmʌmi] *n.* ма́мачка, мату́ля
**mummy**[2] [ˈmʌmi] *n.* му́мія
**murder**[1] [ˈmɜ:də] *n.* забо́йства
**murder**[2] [ˈmɜ:də] *v.* забіва́ць
**murderer** [ˈmɜ:dərə] *n.* забо́йца
**muscle** [ˈmʌsl] *n.* му́скул, мы́шца
**museum** [mjuˈzi:əm] *n.* музе́й
**mushroom**[1] [ˈmʌʃrʊm] *n.* грыб
**mushroom**[2] [ˈmʌʃrʊm] *v.* (ху́тка) разраста́цца, распаўсю́джвацца
**music** [ˈmju:zɪk] *n.* му́зыка
**musical**[1] [ˈmju:zɪkl] *n.* мю́зікл
**musical**[2] [ˈmju:zɪkl] *adj.* 1. музы́чны; **a musical instrument** музы́чны інструме́нт **2.** музыка́льны; **a musical ear** музыка́льны слых
**musician** [mjuˈzɪʃn] *n.* музыка́нт
**Muslim**[1] [ˈmʊzlɪm] *n.* мусульма́нін; мусульма́нка
**Muslim**[2] [ˈmʊzlɪm] *adj.* мусульма́нскі
**must** [mʌst, məst] *v.* **1.** (*азначае неабходнасць, павіннасць*) паві́нен, трэ́ба; **I must go** му́шу/трэ́ба ісці́ **2.** (*азначае меркаванне, якое мяжуе з упэўненасцю*) ма́быць, му́сіць, пэ́ўна, напэ́ўна, віда́ць; *It must be late*. Напэўна, ужо позна.
**mustache** [ˈmʌstəʃ, məˈstæʃ] *AmE* = **moustache**
**mustard** [ˈmʌstəd] *n.* гарчы́ца
**mustn't** [ˈmʌsnt] *скар. ад* must not
**mute** [mju:t] *n.* **1.** *dated* нямы́ **2.** *ling.* нямы́ гало́сны або́ зы́чны гук
**mutiny** [ˈmju:təni] *n.* мяце́ж, бунт
**mutton** [ˈmʌtn] *n.* бара́ніна
**mutual** [ˈmju:tʃuəl] *adj.* узае́мны; **mutual understanding** узаемаразуме́нне
**my** [maɪ] *pron.* мой, мая́, маё, мае́; свой, свая́, сваё, свае́; **my car** мой аўтамабі́ль; **my book** мая́ кні́га; **my coat** маё паліто́; **my children** мае́ дзе́ці
**myself** [maɪˈself] *pron.* **1.** сябе́; -ся, -цца (*пра 1-ю асобу адз. л.*); *I washed myself.* Я памыўся. **2.** сам, сама́; *I saw it myself*. Я сам гэта бачыў. ♦ **as for myself** што да мяне́
**mysterious** [mɪsˈtɪəriəs] *adj.* таямні́чы

**mystery** [ˈmɪstri] *n.* **1.** таямні́ца; **shrouded in mystery** пакры́ты таямні́цаю **2.** *eccl.* та́інства **3.** *theatre* містэ́рыя

**myth** [mɪθ] *n.* міф

**mythic(al)** [ˈmɪθɪk(l)] *adj.* **1.** міфі́чны; **mythic literature** мі́фы **2.** фантасты́чны; прыду́маны

**mythology** [mɪˈθɒlədʒi] *n.* міфало́гія

# Nn

**N, n**[1] [en] *n. 14-я літара англійскага алфавіта*

**N, n**[2] [en] *math.* неазнача́льная велічыня́

**N, n**[3] [en] (*пісьмовае скар. ад* **noun**) *ling.* назо́ўнік

**N** (*пісьмовае скар. ад* **north**; **northern**) по́ўнач; паўно́чны

**nab** [næb] *v. infml* **1.** лаві́ць; хапа́ць на ме́сцы злачы́нства; арыштó́ўваць **2.** кра́сці, цягну́ць; *Who's nabbed my textbook?* Хто сцягнуў мой падручнік? **3.** застава́ць, заспява́ць; *I nabbed my friend at the station.* Я заспеў сябра яшчэ на станцыі.

**nabob** [ˈneɪbɒb] *n.* **1.** *hist.* набо́б **2.** магна́т, уладальнік незлічо́нага бага́цця

**Naboth** [ˈneɪbɒθ] *n. bibl.* Навутэ́й, Навуфе́й ♦ **Naboth's vineyard** вінагра́днік Навутэ́я; прадме́т за́йздрасці, хці́васці; мэ́та, для дасягне́ння якóй іду́ць на злачы́нства

**nacre** [ˈneɪkə] *n.* перламу́тр, ма́ціца

**nadir** [ˈneɪdɪə] *n.* **1.** *astron.* надзі́р **2.** *fml* са́мы ні́зкі ўзро́вень, кра́йні заняпа́д; кра́йняя дэпрэ́сія ♦ **be at the nadir of one's hope** тра́ціць усяля́кую надзе́ю

**nag**[1] [næg] *n.* **1.** буркýн **2.** пастая́ннае бурча́нне; прыдзі́ркі, прычэ́пкі

**nag**[2] [næg] *n.* **1.** *infml, dated* стары́ конь; каня́ка, кля́ча **2.** ко́нік, по́ні

**nag**[3] [næg] *v.* **1.** **(at)** дайма́ць (*каго-н.*), дапяка́ць (*каму-н.*), назаля́ць (*каму-н.*), дакуча́ць, раздражня́ць **2.** прыдзіра́цца, чапля́цца; бурча́ць; пілава́ць (*перан.*); *She nags him all day long.* Яна чапляецца да яго з раніцы да ночы. **3.** бале́ць, ныць

**nagging** [ˈnægɪŋ] *adj.* **1.** надаку́члівы; паку́тлівы; **a nagging pain** ны́ючы боль; **nagging fear** неадчэ́пны страх **2.** прыдзі́рлівы, сварлі́вы; **a nagging voice** бурклі́вы го́лас

**naiad** [ˈnaɪæd] *n.* (*pl.* **naiades** *or* **naiads**) **1.** *myth.* ная́да (*німфа азёр, рэк, ручаёў, крыніц, вадаспадаў*) **2.** *entomol.* ная́да, лічы́нка насяко́мых з няпо́ўным ператварэ́ннем (*напр., страказа*)

**naiades** [ˈnaɪædi:z] *pl.* → **naiad**

**nail**[1] [neɪl] *n.* **1.** цвік, гвозд; **drive a nail home** забіва́ць цвік па са́мую плёшку; **2.** но́гаць, пазно́гаць; **do one's nails** рабі́ць манікю́р; **bite one's nails** гры́зці но́гці ♦ **(as) hard as nails** 1) жо́рсткі, бязду́шны, бессардэ́чны; 2) загартава́ны, выно́слівы; у (до́брай/выда́тнай) фо́рме (*пра спартсмена*); **drive a nail home** даво́дзіць спра́ву да канца́; **hit the nail on the head** папа́сці ў са́мую кро́пку; **pay (down) on the nail** *BrE, infml* плаці́ць на ме́сцы/тут жа/адра́зу ж/неадкла́дна (гато́ўкаю/ная́ўнымі грашы́ма); *Pay on the nail!* Грошы на бочку! **fight tooth and nail** бі́цца не на жыццё, а на смерць; **one nail drives out another** ≅ клін клі́на выбіва́е

**nail**[2] [neɪl] *v.* **1.** забіва́ць (*цвікі*), прыбіва́ць (*цвікамі*); *He was nailed to the cross.* Ён быў прыбіты да крыжа/распяты на крыжы; (*таксама перан. AmE* Ён быў жорстка пакараны.) **2.** прыко́ўваць, прыця́гваць (*увагу, позірк*) **3.** *infml* хапа́ць, хвата́ць, ца́паць, арыштó́ўваць **4.** выкрыва́ць (*чыю-н. хлусню*) ♦ **nail one's colours to the mast** адкры́та абараня́ць/адстойваць свае́ по́гляды (да канца́), займа́ць непрымі́ры́мую пазі́цыю; не здава́ць пазі́цыі

**nail down** [ˌneɪlˈdaʊn] *phr.v.* **1.** прыбіва́ць **2.** прыстава́ць; прыпіра́ць да сце́нкі; прымуша́ць; лаві́ць на сло́ве **3.** дакла́дна вызнача́ць; **nail down some facts** удакладня́ць, правяра́ць некато́рыя/пэ́ўныя фа́кты

**nail up** [ˌneɪlˈʌp] *phr.v.* **1.** забіва́ць (*дзверы, вокны*) **2.** прыбіва́ць

**nail bomb** [ˈneɪlˌbɒm] *n.* самаро́бнае выбухо́вае прыстасава́нне, начы́ненае цвіка́мі

**nail clippers** [ˈneɪlklɪpəz] *n.* шчыпцы́/шчы́пчыкі для пазно́гцяў

**nail file** [ˈneɪlfaɪl] *n.* пі́лка для пазно́гцяў

**nail polish** [ˈneɪlpɒlɪʃ] *n.* лак для пазно́гцяў

**nail varnish** [ˈneɪlvɑ:nɪʃ] *n. BrE* = **nail polish**

**naive** [naɪˈi:v] *adj.* **1.** наі́ўны, даве́рлівы, прастаду́шны **2.** прастава́ты, недалёкі, легкаве́рны; **a naive user** *comput.* пачына́ючы карыста́льнік/ю́зер, наві́чо́к, «ча́йнік»

**naked** [ˈneɪkɪd] *adj.* го́лы, аго́лены, непакры́ты (*таксама перан.*); **stark naked** абсалю́тна го́лы, у чым ма́ці нарадзі́ла; **stripped naked** раздзе́ты дагала́, го́лы; **half naked** напаўго́лы, (на)паўаго́лены; (на)паўраздзе́ты; **naked trees** го́лыя/бязлі́стыя дрэ́вы; **a naked sword** вы́няты меч, вы́нятая шпа́га; **naked wire** аго́лены/неізаля́ваны про́вад; **a naked bulb/light** ля́мпачка без абажу́ра; **a naked flame** адкры́тае по́лымя; **naked aggression** непрыкры́тая/ адкры́тая/ідаво́чная агрэ́сія; **the naked truth** чы́стая пра́ўда ♦ **with the naked eye** про́стым во́кам

**nakedness** [ˈneɪkɪdnəs] *n.* галізна́, аго́ленасць

**name¹** [neɪm] *n.* **1.** імя́; про́звішча; **Christian/first/given name** імя; **family/last name** про́звішча; **maiden name** про́звішча да заму́жжа; **married name** про́звішча пасля́ заму́жжа; **a man by the name of Jack Smith** *fml* чалаве́к па і́мені Джэк Сміт; **middle name** друго́е імя́ (*напр.,* Ann *у спалучэнні* Mary Ann Smith); *таксама перан. infml* характэ́рная ры́са; *Generosity is his middle name.* Ён – увасабленне шчодрасці; **stage name** псеўдані́м акцёра, сцэні́чнае про́звішча/імя́; **proper name** *ling.* імя́ ўла́снае; **personal proper name** *ling.* імя́ ўла́снае асабо́вае; **know smb. by name** ве́даць каго́-н. па і́мені/про́звішчы; *таксама перан.* ве́даць каго́-н. (то́лькі) па чу́тках; *What's your name?* Як цябе завуць? **2.** найме́нне, на́зва; **a brand name** брэнд, фабры́чная ма́рка, на́зва вядо́май ма́ркі/вядо́мага вы́рабу; **a trade name** на́зва фі́рмы; фі́рменная на́зва, гандлёвая на́зва тава́ру; *What is the name of this plant?* Як называецца гэта расліна? **3.** *звыч. pl. infml* ла́янка **4.** рэпута́цыя, сла́ва, імя́; **a bad name** дрэ́нная рэпута́цыя/сла́ва; *This school has a good name.* У гэтай школы добрая рэпутацыя; *He made his name as an eminent writer.* Ён здабыў сабе імя выдатнага пісьменніка. **5.** вялі́кі чалаве́к, выда́тная асо́ба; **a big name** гу́чнае імя́, вядо́мая/знакамі́тая/славу́тая асо́ба, выда́тны/выбі́тны чалаве́к, чалаве́к з і́мем, *перан.* велічыня́ ♦ **the name of the game** *infml* су́тнасць (спра́вы), гало́ўнае; **in the name of smb./smth.** у/ад імя́ каго́-н./чаго́-н.; **in all but name** факты́чна, па су́тнасці, неафіцы́йна, дэ-фа́кта; **in name only** (то́лькі) наміна́льна; **call smb. names** свары́цца на каго́-н., ла́яць каго́-н.; абзыва́ць каго́-н.; **take the Lord's name/the name of God in vain** вымаўля́ць імя́ Го́спада/Бо́га ма́рна/дарэ́мна, клясці́ся (і́мем Бо́га), бажы́цца; **have smth. to one's name** вало́даць чым-н., мець што-н. ва ўла́снасці; *He doesn't have a penny to his name.* У яго ні капейкі за душой; **take smb.'s name in vain** за во́чы гавары́ць пра каго́-н. непачці́ва; беспадста́ўна спасыла́цца на каго-н., спекуля́ваць чы́м-н. і́мем/аўтарытэ́там

**name²** [neɪm] *v.* **1.** называ́ць, дава́ць імя́; *He was named after his father.* Яго назвалі ў гонар бацькі. **2.** называ́ць, пералі́чваць (пайме́нна); *Name all the kings of England.* Назавіце ўсіх каралёў Англіі. *That beautiful garden seemed to be planted with flowers of all manner and description: violets, pansies, tulips, peonies, phloxes, roses, to name but a few.* Здавалася, што ў тым цудоўным садзе раслі кветкі ўсіх відаў і найменняў; сярод іх былі фіялкі, браткі, цюльпаны, півоні, флёксы, ружы. **3.** назнача́ць, прызнача́ць; **name the day** прызнача́ць дзень вясе́лля; **name a date for a meeting** прызнача́ць да́ту схо́ду; **name a price** назнача́ць цану́; *He was named consul.* Яго прызначылі консулам. ♦ **name names** зга́дваць/называ́ць імёны (*замешаных у чым-н. асоб*)

**name-day** [ˈneɪmdeɪ] *n.* імяні́ны

**nameless** [ˈneɪmləs] *adj.* **1.** безыме́нны; **a nameless grave** безыме́нная магі́ла **2.** не назва́ны, анані́мны; *...a well-known public figure who shall be nameless.* …вядомы грамадскі дзеяч, імя якога называць не будзем. **3.** невытлумача́льны (*асабліва пра пачуцці*); **a nameless longing** *fml* невытлумача́льнае карце́нне

**namely** [ˈneɪmli] *adv.* менаві́та; а і́менна; гэ́та зна́чыць; *Only two students were absent, namely Mark and John.* Толькі два студэнты адсутнічалі, а менавіта Марк і Джон.

**nameplate** [ˈneɪmpleɪt] *n.* до́шчачка, таблі́чка (*з іменем на дзвярах*)

**namesake** [ˈneɪmseɪk] *n.* цёзка

**nan** [næn] *n. BrE, infml* бабу́ля

**nancy** [ˈnænsi] *n. BrE, slang, offensive* **1.** гей, гомасексуалі́ст, педэра́ст **2.** жанчынападо́бны мужчы́на

**nanny** [ˈnæni] *n.* **1.** ня́нька, ня́нечка **2.** *infml* бабу́ля

**nanny goat** [ˈnænigəʊt] *n.* каза́ (*звыч. ужываецца дзецьмі ці ў размове з імі*)

**nanotechnology** [ˌnænəʊtekˈnɒlədʒi] *n.* нанатэхнало́гія

**nap¹** [næp] *n.* дрымо́та, каро́ткі сон (*звыч. удзень*); **have/take a nap** задрама́ць

**nap²** [næp] *v.* драма́ць ♦ **catch smb. napping** *infml* заста́ць каго́-н. зняна́цку/зняча́ўку; заспе́ць каго́-н.

**nap³** [næp] *n.* ворс, начо́с

**napalm** [ˈneɪpɑːm] *n.* напа́лм

**nape** [neɪp] *n.* за́дняя ча́стка шы́і, ка́рак; **at the nape of one's neck** на ка́рку; *His long hair covered the nape of his neck.* Яго доўгія валасы закрывалі шыю.

**napkin** [ˈnæpkɪn] *n.* **1.** сурвэ́тка **2.** *BrE, dated* падгу́зак; пялёнка, пялю́шка

**nappy** [ˈnæpi] *n. BrE* падгу́зак; пялёнка, пялюшка

**narcissi** [nɑːˈsɪsaɪ] *pl.* → **narcissus**

**narcissism** [ˈnɑːsɪsɪzəm] *n. fml* самаўлюбёнасць, самалюбава́нне

**narcissus** [nɑːˈsɪsəs] *n.* (*pl.* **narcissi** *or* **narcissuses**) *bot.* нарцы́с

**narcosis** [nɑːˈkəʊsɪs] *n. med.* нарко́з, агу́льная анестэзі́я, агу́льнае абязбо́льванне; **under narcosis** пад нарко́зам

**narcotic**[1] [nɑːˈkɒtɪk] *n.* **1.** нарко́тык; наркаты́чны сро́дак; **a narcotic agent** супрацо́ўнік (паліцэ́йскай) слу́жбы па барацьбе́ з нарко́тыкамі **2.** *med.* снатво́рнае; сро́дак для абязбо́львання

**narcotic**[2] [nɑːˈkɒtɪk] *adj.* **1.** наркаты́чны **2.** усыпля́льны, снатво́рны

**narrate** [nəˈreɪt] *v. fml* **1.** апавяда́ць, раска́зваць; **narrate one's adventures** раска́зваць пра свае́ прыго́ды **2.** каментава́ць, чыта́ць тэкст за ка́драм (*у дакументальным фільме*)

**narration** [nəˈreɪʃn] *n. fml* **1.** апавяда́нне, раска́званне **2.** ды́ктарскі тэкст; а́ўтарскі камента́рый

**narrative**[1] [ˈnærətɪv] *n. fml* **1.** апавяда́нне, апо́весць, гісто́рыя **2.** апавяда́нне, раска́званне

**narrative**[2] [ˈnærətɪv] *adj.* апавяда́льны; **narrative fiction** маста́цкая про́за

**narrator** [nəˈreɪtə] *n.* **1.** апавяда́льнік; апавяда́льніца; раска́зчык; раска́зчыца **2.** ды́ктар; акцёр, які́ чыта́е тэкст ад а́ўтара

**narrow**[1] [ˈnærəʊ] *adj.* **1.** ву́зкі, це́сны (*таксама перан.*); **a narrow bed** ву́зкі ло́жак; **narrow hips** ву́зкія клубы́; **a narrow vowel** *ling.* галосны ву́зкай разнаві́днасці (*пра гук*); **a narrow circle of friends** ву́зкае ко́ла/асяро́ддзе сябро́ў; **a narrow range of goods** абмежава́ны асартыме́нт (тава́раў) **2.** абмежава́ны; невялі́кі; нязна́чны; **narrow means** абмежава́ныя сро́дкі; **a narrow majority** нязна́чная бо́льшасць; **a narrow victory** перамо́га, здабы́тая з вялі́кай ця́жкасцю; перамо́га з нязна́чнай перава́гай; *We had a narrow escape.* Мы ледзь уратаваліся. **3.** ву́зкі, абмежава́ны (*пра розум, інтарэсы і да т.п.*); **narrow interests** ву́зкія інтарэ́сы **4.** *fml* пі́льны, ува́жлівы; **a narrow examination** пі́льны агля́д

**narrow**[2] [ˈnærəʊ] *v.* звужа́ць, змянша́ць; звужа́цца, змянша́цца; **narrow one's eyes** прыжму́рваць/прыплю́шчваць во́чы; *The river narrows at this point.* Рака звужаецца ў гэтым месцы.

**narrow down** [ˌnærəʊˈdaʊn] *phr.v.* **(to)** скарача́ць, змянша́ць (*да якой-н. колькасці, якога-н. памеру*); абмяжо́ўваць (*чым-н.*), зво́дзіць (*да чаго-н.*); *The choice was narrowed down to two candidates.* Выбар звёўся да двух кандыдатаў.

**narrowing** [ˈnærəʊɪŋ] *n. ling.* звужэ́нне

**narrowly** [ˈnærəʊli] *adv.* **1.** ледзь (не), ле́дзьве (не); *He only narrowly escaped death.* Ён ледзь не загінуў. **2.** ву́зка, абмежава́на; **a narrowly specialized education** вузкаспецыялізава́нае навуча́нне; **3.** пі́льна, ува́жліва; *She watched him narrowly.* Яна пільна сачыла за ім. **4.** *fml* падрабя́зна, дакла́дна

**narrow-minded** [ˌnærəʊˈmaɪndɪd] *adj. derog.* абмежава́ны, недалёкі, вузкало́бы; пры́мхлівы, забабо́нны; неаб'екты́ўны

**NASA** [ˈnæsə] (*скар. ад* **National Aeronautics and Space Administration**) НАСА, Нацыянальнае ўпраўле́нне па аэрана́ўтыцы і дасле́даванні ко́смасу (*у ЗША*)

**nasal** [ˈneɪzl] *adj.* **1.** насавы́; **the nasal cavity** *med.* по́ласць но́са, насава́я по́ласць; **a nasal haemorrhage** *med.* крывацёк з но́са, насавы́ крывацёк; **nasal mucus** *med.* насава́я слізь, смаркачы́, со́плі **2.** *ling.* наза́льны, насавы́; **a nasal consonant** насавы́ зы́чны (*гук*) **3.** гугня́вы, гамза́ты (*голас*); **a nasal accent** гугня́васць, гамза́тасць

**nasalization**, *BrE* **-isation** [ˌneɪzlaɪˈzeɪʃn] *n. ling.* назаліза́цыя

**nasturtium** [nəˈstɜːʃəm] *n. bot.* насту́рка, насту́рцыя

**nasty** [ˈnɑːsti] *adj.* **1.** непрые́мны, бры́дкі, агі́дны; **a nasty smell** агі́дны пах, смуро́д; **nasty weather** дрэ́ннае надво́р'е **2.** зло́сны, зласлі́вы, нядобразычлі́вы; раздражнёны; **a nasty remark** з'е́длівая/ядаві́тая заўва́га; **a nasty temper** ця́жкі хара́ктар **3.** бры́дкі, непрысто́йны; **nasty language** ла́янка, брыдкасло́ўе, бры́дкая гаво́рка **4.** небяспе́чны, паграж́альны; **a nasty accident** небяспе́чнае/жу́даснае здарэ́нне; **a nasty bend** небяспе́чны паваро́т/заваро́т, небяспе́чная паваро́тка (*дарогі*); **a nasty cut** глыбо́кі парэ́з; **a nasty illness** ця́жкае/сур'ёзнае захво́рванне ♦ **get/turn nasty** узлава́цца, раззлава́цца; перайсці́ да пагро́з

**natality** [nəˈtælɪti] *n. fml* нараджа́льнасць, каэфіцые́нт нараджа́льнасці

**nation** [ˈneɪʃn] *n.* **1.** на́цыя, наро́д; *The President spoke to the nation on television.* Прэзідэнт звярнуўся да народа па тэлебачанні. **2.** дзяржа́ва, краі́на; **across the nation** па ўсёй краі́не; **newly independent nations** но́выя незале́жныя краі́ны; **most favoured nation treatment** *AmE* рэжы́м найбо́льшай спрыя́льнасці (*для якой-н. краіны*)

**national**[1] [ˈnæʃnəl] *n.* грамадзя́нін, падда́ны (*якой-н. дзяржавы*); **American nationals in Britain** амерыка́нскія падда́ныя ў Вялікабрыта́ніі

**national²** [ˈnæʃnəl] *adj.* **1.** нацыяна́льны, наро́дны; **national dress** нацыяна́льны касцю́м; **national economy** нацыяна́льная экано́міка, наро́дная гаспада́рка; **national heritage** нацыяна́льная (культу́рная) спа́дчына; **national identity** нацыяна́льная самабы́тнасць; **a national minority** нацыяна́льная ме́ншасць; **the national team** *sport* нацыяна́льная збо́рная (кама́нда), збо́рная (кама́нда) краі́ны; **national unity** адзі́нства наро́да, нацыяна́льнае адзі́нства **2.** дзяржа́ўны; **a national anthem** дзяржа́ўны гімн; **a national boundary** дзяржа́ўная мяжа́; **a national holiday** дзяржа́ўнае свя́та; **National Insurance** дзяржа́ўнае сацыя́льнае страхава́нне (*у Вялікабрытаніі*); **the Royal National Theatre** Карале́ўскі нацыяна́льны тэа́тр (*у Лондане*)

**nationalism** [ˈnæʃnəlɪzəm] *n.* **1.** нацыяналі́зм **2.** патрыяты́зм, імкне́нне да нацыяна́льнай незале́жнасці

**nationalistic** [ˌnæʃnəˈlɪstɪk] *n.* нацыяналісты́чны

**nationality** [ˌnæʃəˈnæləti] *n.* **1.** грамадзя́нства, падда́нства; **be of British nationality** быць грамадзя́нінам Вялікабрыта́ніі; **dual nationality** падво́йнае грамадзя́нства **2.** нацыяна́льнасць, наро́днасць; **the nationalities of the North** наро́днасці По́ўначы

**nationalize,** *BrE* **-ise** [ˈnæʃnəlaɪz] *v.* нацыяналізава́ць, рабі́ць ула́снасцю дзяржа́вы (*пра фірму, прадпрыемства і да т.п.*)

**national park** [ˌnæʃnəlˈpɑːk] *n.* (прыро́дны) нацыяна́льны парк; запаве́днік

**national service** [ˌnæʃnəlˈsɜːvɪs] *n.* во́інская паві́ннасць/слу́жба

**nationwide** [ˌneɪʃnˈwaɪd] *adj.* усенаро́дны, агульнанаро́дны; **a nationwide strike** усеагу́льная забасто́ўка

**native¹** [ˈneɪtɪv] *n.* **1.** ураджэ́нец; **a native of London** ураджэ́нец Ло́ндана **2.** карэ́нны жыха́р, ураджэ́нец яко́й-н. мясцо́васці; *She speaks French like a native.* Яна гаворыць па-французску, як (сапраўдная) француженка. **3.** *dated, offensive* абарыге́н, тузе́мец, тубы́лец (*у адносінах да карэннага насельніцтва з цёмнай скурай*) **4.** раслі́на/жывёліна, характэ́рная для да́дзенага рэгіёна; *The kangaroo is a native of Australia.* Радзіма кенгуру – Аўстралія.

**native²** [ˈneɪtɪv] *adj.* **1.** ро́дны; **native land** радзі́ма, ба́цькаўшчына; **native language** ро́дная мо́ва; **a native speaker** но́сьбіт мо́вы **2.** мясцо́вы, тутэ́йшы, карэ́нны; **native flora and fauna** мясцо́вая фло́ра і фа́уна **3.** прыро́дны, прыро́джаны; **a native talent** прыро́дны/прыро́джаны та́лент

**nativity** [nəˈtɪvəti] *n. relig.* **1. the Nativity** Нараджэ́нне Хрыста́, Нараджэ́нне Хрысто́ва **2.** карці́на або гру́па фігу́рак, які́я адлюстроўваюць нараджэ́нне Хрыста́

**NATO, Nato** [ˈneɪtəʊ] *n.* (*скар. ад* **North Atlantic Treaty Organization**) НАТА, Паўночнаатланты́чны саю́з

**natural** [ˈnætʃrəl] *adj.* **1.** прыро́дны; **natural gas** прыро́дны газ; **natural resources** прыро́дныя бага́цці, прыро́дныя рэсу́рсы; **a natural disaster**/**calamity** стыхі́йнае бе́дства (*паводка, ураган і да т.п.*) **2.** натура́льны (*у розных знач.*); **natural dyes** натура́льныя фа́рбы/фарбава́льнікі; **natural wool** натура́льная шэрсць; **natural selection** натура́льны адбо́р; **die a natural death** памі́раць сваёй сме́рцю **3.** уласці́вы, прыро́джаны, прыро́дны; **a natural hunter** прыро́джаны паляўні́чы **4.** *fml* пазашлю́бны, незаконнанаро́джаны; **a natural son** пазашлю́бны сын; *Agatha was adopted as a baby: she never knew her natural parents.* Агату ўдачарылі (яшчэ) у маленстве: яна ніколі не ведала сваіх сапраўдных бацькоў.

**natural history** [ˌnætʃrəlˈhɪstri] *n.* прыродазна́ўства

**naturalist** [ˈnætʃrəlɪst] *n.* натураліст, прыродазна́ўца, прыродазна́вец

**naturalize,** *BrE* **-ise** [ˈnætʃrəlaɪz] *v.* **1.** дава́ць грамадзя́нства; атры́мліваць грамадзя́нства; *She was naturalized in Spain.* Яна атрымала іспанскае грамадзянства. **2.** запазыча́ць, запазы́чваць (*словы, выразы з іншай мовы*); *This word was naturalized into/in English in the 20th century.* Гэтае слова ўвайшло ў англійскую мову ў XX стагоддзі. **3.** акліматызава́цца; прыжыва́цца, прыма́цца (*пра жывёл, расліны*)

**naturally** [ˈnætʃrəli] *adv.* **1.** зразуме́ла, вядо́ма, натура́льна; *Naturally, you'll want to discuss this with your mother.* Вядома, ты захочаш абмеркаваць гэта з мамай. **2.** ад нараджэ́ння, ад/з прыро́ды; *His hair curls naturally.* Яго валасы ўюцца/кучаравяцца ад прыроды. **3.** натура́льна, про́ста, во́льна; *She behaved naturally.* Яна трымалася проста.

**natural science** [ˌnætʃrəlˈsaɪəns] *n.* прыродазна́ўства, адна́ з прыродазна́ўчых наву́к

**natural selection** [ˌnætʃrəlsɪˈlekʃn] *n.* натура́льны адбо́р

**nature** [ˈneɪtʃə] *n.* **1.** прыро́да; **(Mother) Nature** ма́ці-прыро́да; **the laws of nature** зако́ны прыро́ды **2.** нату́ра, хара́ктар; **human nature** чалаве́чая/людска́я прыро́да, чалаве́чыя сла́басці; **by nature** па прыро́дзе, па хара́ктары,

па нату́ры; *He is kind by nature.* Па характары ён добры чалавек. **3.** тып, род, сорт; *Things of that nature do not interest me.* Падобныя рэчы мяне не цікавяць. ♦ **against nature** ненатура́льны, ненарма́льны; амара́льны; **let nature take its course** не ўме́швацца ў ход падзе́й; дазваля́ць падзе́ям ісці́ сваі́м пара́дкам

**naughty** [ˈnɔːti] *adj.* **1.** непаслухмя́ны, сваво́льны, гарэ́злівы, дураслі́вы (*звыч. пра дзяцей*); **a naughty boy** не́слух, сваво́льнік, гарэ́за; **a naughty little devil** мале́нькі гарэ́знік/сваво́льнік, мале́нькае чарцяня́/чарцянё; *Don't be naughty!* Не свавольнічай! **2.** *infml* непрысто́йны, двухсэнсо́ўны, рызыко́ўны; **naughty jokes** непрысто́йныя жа́рты **3.** *BrE, joc.* нядо́бры, га́дкі (*звыч. пра дарослых*)

**nausea** [ˈnɔːziə] *n.* **1.** мло́снасць, млосць, мо́ташнасць; марска́я хваро́ба; *I feel nausea.* Мне моташна. **2.** агі́да, антыпа́тыя, непрыя́знасць

**nauseate** [ˈnɔːzieɪt] *v.* **1.** выкліка́ць млосць/рво́ту, ну́дзіць **2.** выкліка́ць агі́ду, ну́дзіць; *The very thought of it nauseates me.* Мяне нудзіць нават ад думкі пра гэта.

**nautical** [ˈnɔːtɪkl] *adj.* марскі́, мараходны; навігацы́йны; **a nautical mile** марска́я мі́ля (*1853 м*)

**naval** [ˈneɪvl] *adj.* ва́енна-марскі́; марскі́, фло́цкі; **a naval base** вае́нна-марска́я ба́за; **a naval power** марска́я дзяржа́ва

**navel** [ˈneɪvl] *n.* пуп, пупо́к

**navigable** [ˈnævɪgəbl] *adj.* суднахо́дны; **a navigable waterway** фарва́тар, суднахо́дны во́дны шлях; **the navigable portion of the Nile** суднахо́дная ча́стка Ні́ла

**navigate** [ˈnævɪgeɪt] *v.* **1.** ве́сці (*карабель, судна*), кірава́ць (*самалётам*) **2.** пла́ваць (*на судне*), лята́ць (*на самалёце*)

**navigation** [ˌnævɪˈgeɪʃn] *n.* навіга́цыя (*у розных знач.*); марапла́ванне, суднахо́дства; **celestial navigation/navigation by the stars** навіга́цыя па зо́рках, астранавіга́цыя; **satellite navigation system** спадаро́жнікавая навігацы́йная сістэ́ма, спадаро́жнікавая сістэ́ма навіга́цыі; **space navigation** касмі́чная навіга́цыя; **a navigation beacon** навігацы́йны радыёмая́к; **a radar navigation system** сістэ́ма радыёлакацы́йнай навіга́цыі

**navigator** [ˈnævɪgeɪtə] *n.* навіга́тар; штýрман

**navvy** [ˈnævi] *n. BrE* чорнарабо́чы; землякóп

**navy** [ˈneɪvi] *n.* **the Navy** вае́нна-марскі́ флот; вае́нна-марскі́я сі́лы

**navy blue** [ˌneɪviˈbluː] *adj.* цёмна-сі́ні

**nay** [neɪ] *n.* го́лас су́праць; той, хто галасу́е су́праць; **yeas and nays** галасы́ «за» і «су́праць»; *The nays have it!* Большасць супраць!

**nay**[2] [neɪ] *adv. dated* на́ват, больш за тое́, ма́ла таго́; *His behaviour is difficult, nay, impossible to justify.* Яго паводзінам не тое што цяжка, але нават немагчыма знайсці апраўданне.

**Nazi** [ˈnɑːtsi] *n.* (*pl.* **Nazis**) нацы́ст, няме́цкі фашы́ст

**Nazism** [ˈnɑːtsɪzəm] *n.* нацы́зм, няме́цкі фашы́зм

**NB/nb** (*пісьмовае скар. ад лацінскага* **nota bene**) нотабе́на, «звярні́ ўва́гу», «прымі́ да ве́дама» (*памета на палях дакументаў каля слоў, на якія трэба звярнуць асаблівую ўвагу*)

**NBA** [ˌenbiːˈeɪ] (*скар. ад* **National Basketball Association**) НБА, Нацыяна́льная баскетбо́льная асацыя́цыя (*ЗША*)

**NBC** [ˌenbiːˈsiː] (*скар. ад* **National Broadcasting Company**) Эн-Бі-Сі, Нацыяна́льная радыёвяшча́льная кампа́нія (*ЗША*)

**NCO** [ˌensiːˈəʊ] (*скар. ад* **non-commissioned officer**) ваеннаслу́жачы сяржа́нцкага скла́ду

**NE** (*пісьмовае скар. ад* **north-east**; **north-eastern**) паўно́чны ўсход; *naut.* норд-о́ст; паўно́чна-ўсхо́дні

**Neanderthal** [niˈændətɑːl] *n.* **1.** неандэрта́лец (*выкапнёвы чалавек эпохі ранняга і сярэдняга палеаліту*) **2.** *infml* пячо́рны/выкапнёвы чалаве́к, грубія́н, траглады́т

**near**[1] [nɪə] *adj.* **1.** блі́зкі, бліжэ́йшы (*пра адлегласць, час*); **in the (very) near future** у (са́мым) блі́зкім/бліжэ́йшым бу́дучым; *What's the nearest way to the bank?* Як (най)бліжэй прайсці да банка? **2.** блі́зкі, падо́бны; **a near resemblance** блі́зкае падабе́нства; **a near translation** перакла́д блі́зкі да арыгіна́ла; **a near impossibility** практы́чная немагчы́масць (*зрабіць што-н.*) **3.** блі́зкі (*цесна звязаны*); **a near relation/relative** найбліжэ́йшы/са́мы блі́зкі сваяк (*звыч. пра бацькоў і дзяцей*) ♦ **one's nearest and dearest** *infml* ро́дныя і блі́зкія; ***It was a near thing***. Усё ледзь не сарвалася.

**near**[2] [nɪə] *v.* надыхо́дзіць, падыхо́дзіць, набліжа́цца (*пра час і адлегласць*); *John got more and more nervous as the day of her departure neared.* З набліжэннем дня яе ад'езду Джон рабіўся ўсё больш нервовым.

**near**[3] [nɪə] *adv.* **1.** блі́зка, недалёка, паблі́зу (*пра час і адлегласць*); **come/draw near** прыбліжа́цца, набліжа́цца; **nearer and nearer** усё блі́жай і блі́жай; *Don't come nearer or I'll shoot.* Не набліжайся, бо выстралю. **2.** ама́ль; **near a century ago** ама́ль стаго́ддзе/сто гадо́ў таму́ ♦ **so near and yet so far** ≅ блі́зка ло́каць,

ды не ўку́сіш; **far and near** усю́ды, скрозь; *We searched far and near for the missing dog.* Мы скрозь і ўсюды шукалі прапаўшага сабаку; *I near died with fright.* Я ледзь не памёр са страху; **not anywhere near/nowhere near** далёка не, зусі́м не; ні ў я́кім ра́зе; *There wasn't anywhere near enough food for all of us.* Ежы на ўсіх нас зусім не хапала.

**near⁴** [nɪə] *prep.* **1.** недалёка ад, каля́, ля (*пра час і адлегласць*); *My house is near the station.* Мой дом недалёка ад станцыі; *It must be near 3 o'clock.* Зараз, напэўна, каля трох гадзін. **2.** ама́ль, ледзь не; *She was near tears.* Яна ледзь не плакала.

**nearby** [ˌnɪəˈbaɪ] *adv.* недалёка, пабл́ізу, по́руч, по́бач; **live nearby** жыць па сусе́дству, быць сусе́дзямі

**Near East** [ˌnɪəˈi:st] *n.* **the Near East** Бл́ізкі Усхо́д

**nearly** [ˈnɪəli] *adv.* **1.** ама́ль, каля́, прыбл́ізна; *It's nearly five o'clock.* Зараз амаль пяць гадзін. **2.** ледзь не, чуць не; *He nearly drowned.* Ён ледзь не ўтапіўся; **nearly blind** напаўсляпы́, паўсляпы́ ♦ **not nearly** далёка не, зусі́м не, ні ў я́кім ра́зе; **not nearly enough** зусі́м недастатко́ва; зна́чна менш, чым трэ́ба; **pretty nearly** ама́ль (што), ледзь(ве); ледзь не, чуць не

**near miss** [ˌnɪəˈmɪs] *n.* непрамо́е, недакла́днае пападанне; пападанне пабл́ізу цэ́лі; про́мах; *It was a near miss!* Ледзь не пацэліў!

**near-sighted** [ˌnɪəˈsaɪtɪd] *adj.* **1.** блізару́кі **2.** недальнаба́чны; непрадба́члівы

**neat** [ni:t] *adj.* **1.** акура́тны, чы́сты, аха́йны; **a neat bed** акура́тна засла́ны ло́жак; **a neat room** прыбра́ны пако́й; **neat handwriting** выра́зны/разбо́рлівы/чытэ́льны по́чырк **2.** сці́плы і элега́нтны; прыго́жы; які́ до́бра сядзі́ць (*пра адзенне*) **3.** дакла́дны; я́сны; тра́пны; **a neat answer** дакла́дны адка́з **4.** *BrE* неразба́ўлены, неразве́дзены, чы́сты (*звыч. пра алкаголь*)

**nebuchadnezzar** [ˌnebjʊkədˈnezə] *n.* **1. Nebuchadnezzar** *bibl.* Навухаданосар (*цар Вавілоніі ў 605–562 гг. да н. э.*) **2.** ве́льмі вялі́кая бутэ́лька для віна́ (*роўная 20 звычайным бутэлькам*)

**nebulous** [ˈnebjələs] *adj. fml* невыра́зны, няя́сны, цьмя́ны, расплы́вісты

**necessarily** [ˌnesəˈserəli] *adv.* **1.** абавязко́ва; **not necessarily** неабавязко́ва; *Rich people are not necessarily happy.* Багацце не заўсёды сведчыць пра шчасце. **2.** непазбе́жна

**necessary¹** [ˈnesəsəri] *n.* **1. the necessaries** *dated* (са́мае) неабхо́днае (*пра рэчы*); **the necessaries of life** прадме́ты/рэ́чы пе́ршай неабхо́днасці (*адзенне, ежа і да т.п.*) **2. the necessary** гро́шы, сро́дкі, фіна́нсы (*на што-н.*) **3.** неабхо́днае; **do the necessary** рабі́ць то́е, што неабхо́дна; *Leave the disk – I'll do the necessary.* Пакінь дыск – я зраблю ўсё неабходнае.

**necessary²** [ˈnesəsəri] *adj.* **1.** неабхо́дны, патрэ́бны; *Food is necessary for life.* Ежа неабходна для жыцця; **if necessary** пры неабхо́днасці; калі́ (гэ́та) неабхо́дна/(ве́льмі) трэ́ба; **hardly necessary** наўра́д ці патрэ́бны, ама́ль не патрэ́бны **2.** *fml* немі́ну́чы, непазбе́жны, няўхі́льны

**necessity** [nəˈsesəti] *n.* **1.** неабхо́днасць, патрэ́ба; **of necessity** па неабхо́днасці; **in case of necessity** у вы́падку неабхо́днасці, пры неабхо́днасці; **the necessity of doing smth./to do smth.** неабхо́днасць/патрэ́ба рабі́ць што-н.; *There is no necessity to do it.* Няма ніякай неабходнасці гэта рабіць. **2.** неабхо́дная рэч; **the bare/basic necessities of life** прадме́ты/рэ́чы пе́ршай неабхо́днасці (*адзенне, ежа і да т.п.*) **3.** немі́ну́часць, непазбе́жнасць, няўхі́льнасць **4.** патрэ́ба; нястача, бе́днасць, гале́ча; **dire necessity** пі́льная патрэ́ба ♦ **necessity is the mother of invention** ≅ бяда́ ды му́ка – та́я ж наву́ка; бяда́ хоць му́чыць, ды жыць ву́чыць

**neck** [nek] *n.* **1.** *anat.* шы́я **2.** каўне́р; **a low neck** глыбо́кі вы́раз, дэкальтэ́; **a scooped neck** глыбо́кі кру́глы вы́раз (*пра сукенку*); **a polo neck** высо́кі закры́ты каўне́р **3. (of smth.)** ву́зкая ча́стка прадме́та; ры́льца (*бутэлькі*); но́жка (*чаркі*); шы́йка (*струнных музычных інструментаў*); **a neck of land** перашы́ек ♦ **a pain in the neck** *infml* даку́члівы/назо́йлівы чалаве́к; з'я́ва, яка́я раздражня́е/дакуча́е; **be up to one's neck in debt** *infml* быць па (са́мыя) ву́шы ў даўгу́; завя́знуць у даўга́х; **break one's neck** скруці́ць, сабе́ шы́ю; звярну́ць сабе́ галаву́; **breathe down smb.'s neck** *infml* стая́ць над душо́й (у каго́-н.); ві́се́ць над ка́ркам (у каго́-н.); **get it in the neck** *infml* атрыма́ць па ка́рку, атрыма́ць нагання́й; **risk one's neck** *infml* рызыкава́ць жыццём/галаво́й; **save one's neck** *infml* ратава́ць сваю́ шку́ру; **stick one's neck out** *infml* ста́віць сябе́ пад уда́р; накліка́ць на сябе́ гнеў, кры́тыку і г. д.

**necklace** [ˈnekləs] *n.* па́церкі, кара́лі; калье́

**neckline** [ˈneklaɪn] *n.* вы́раз, гарлаві́на (*у адзенні*)

**necktie** [ˈnektaɪ] *n. AmE* гáльштук

**necromancer** [ˈnekrəʊmænsə] *n.* некрамáнт (*чалавек, які займаецца чорнай магіяй, выклікае душы памерлых*); вядзьмáр; чарадзéй, чараўнíк

**necrophilia** [ˌnekrəʊˈfɪlɪə] *n.* некрафілíя (*сексуальная ненармальнасць, палавая цяга да нябожчыкаў*)

**necropolis** [nekˈrɒpəlɪs] *n.* (*pl.* **necropolises**) некрóпаль; мóгільнік; старажы́тныя мóгілкі

**necrosis** [nekˈrəʊsɪs] *n. med.* некрóз, амярцвéнне, адмірáнне (*тканкі ці групы клетак якога-н. органа*)

**nectar** [ˈnektə] *n.* **1.** *bot.* нектáр, квéткавы сок **2.** *myth.* нектáр, напíтак багóў; *таксама перан.* цудóўны жыватвóрны напíтак **3.** густы́ сок, прыгатавáны з некатóрых вíдаў фрýктаў (*абрыкос, манга, персік і да т.п.*)

**nectarine** [ˈnektəri:n] *n.* нектары́н (*гладкі персік*)

**née** [neɪ] *adj.* нарóджаная; у дзявóцтве (*пра дзявоцкае прозвішча замужняй жанчыны*); **Mrs Schmitz née Black** мíсіс Шміц, нарóджаная/у дзявóцтве Блэк

**need¹** [ni:d] *n.* **1.** неабхóднасць, патрэ́ба, патрэ́бнасць; **be in need of smth.** мець/адчувáць патрэ́бу ў чым-н.; *There's no need for you to do it.* Табе не трэба гэтага рабіць. **2.** *звыч. pl.* запатрабавáнне; патрэ́ба; **satisfy/meet smb.'s needs** задавальня́ць патрэ́бы; *His needs are few.* Ён сціплы ў патрэбах./Ён непераборлівы. **3.** бядá; нястáча; **be in need** быць/жыць у нястáчы ♦ **a friend in need** сапрáўдны ся́бар; **a friend in need is a friend indeed** ≅ зычлíвага прыя́целя ў няшчáсці пазнаю́ць; хто ў бядзé не быў, той праўдзíвых прыя́целяў не знáе; **if need be** калí бýдзе патрэ́ба; у вы́падку неабхóднасці; *Thank you for being with me* ***in time of need****.* Дзякуй, што былі са мной у цяжкую хвіліну.

**need²** [ni:d] *v.* **1.** мець, адчувáць патрэ́бу (*у чым-н.*); *He needs help.* Яму патрэбна дапамога. **2.** быць патрэ́бным, патрабавáцца; *Your shoes need a good clean.* Твае туфлі трэба добра пачысціць. **3.** (*выражае неабходнасць у пыт. і адм. сказах*); *You need not be afraid of me.* Вам няма чаго мяне баяцца; *You needn't have gone for the key. The door was open.* Дарэмна ты хадзіў па ключ. Дзверы былі адамкнёныя; *Need we go there after all?* А нам абавязкова (трэба) туды ісці? ♦ **need one's head examined** *infml* ≅ клёпкі ў галавé не хапáе; алéю ў галавé мáла

**needful** [ˈni:dfl] *n.* **the needful** *dated* **1.** неабхóднае; **do the needful** рабíць тóе, што неабхóдна **2.** *infml* грóшы

**needle** [ˈni:dl] *n.* **1.** ігóлка (*для шыцця, вышывання і да т.п.*); **a needle and thread** ігóлка з нíткай; **the eye of a needle/needle's eye** вýшка ігóлкі; **thread a needle** заця́гваць/прасóўваць нíтку ў ігóлку **2.** прутóк, вязáльная спíца; **knitting needles** пруткí **3.** ігóлка для ін'éкцый; **a hypodermic needle** *med.* шпрыц/ігóлка для падскýрных ін'éкцый **4.** стрэ́лка; **the needle of a compass** стрэ́лка кóмпаса **5.** іглíца, шыпýлька; **pine needles** іглíца хвóі/сасны́ **6.** *infml* з'éдлівая заўвáга, шпíлька, падкóлка ♦ **look for a needle in a haystack** *infml* шукáць ігóлку ў стóзе сéна

**needless** [ˈni:dləs] *adj.* непатрэ́бны, лíшні; **needless trouble** лíшні клóпат, лíшнія турбóты; **a needless death** бяссэ́нсная/недарэ́чная смерць ♦ **needless to say** зразумéла, безумóўна

**needlework** [ˈni:dlwɜ:k] *n.* шыццё, шытвó; вы́шыўка, вышывáнне, рукадзéлле

**needn't** [ˈni:dnt] = need not

**needy** [ˈni:di] *adj.* бéдны; **a needy family** сям'я́, якáя жывé ў нястáчы/галéчы

**ne'er-do-well** [ˈneədu:wel] *n. dated* лайдáк, абібóк; нядбáлец; ні на што не здáтны чалавéк

**negate** [nɪˈgeɪt] *v. fml* **1.** звóдзіць на ніштó, рабíць нядзéйсным **2.** адмаўля́ць, абвяргáць (*напр., існаванне чаго-н.*)

**negative¹** [ˈnegətɪv] *n.* **1.** адмóва, адмаўлéнне; негаты́ўны адкáз; нязгóда; *The answer to my request was in the negative.* Адказ на мой запыт быў адмоўны. **2.** *tech.* негаты́ў

**negative²** [ˈnegətɪv] *adj.* **1.** адмóўны; негаты́ўны (*у розных знач.*); **a negative response** негаты́ўны адкáз/вóдгук; **a negative effect** адмóўны/шкóдны ўплыў; **a negative sentence** *ling.* адмóўны сказ; **a negative quantity** *math.* адмóўная велічыня́; **a negative charge** *phys.* адмóўны электры́чны зарáд **2.** песімісты́чны; *We probably will not win. – Don't be so negative.* Мабыць, мы не пераможам. – Не будзь такім песімістам.

**neglect¹** [nɪˈglekt] *n.* **(of) 1.** пагарджáнне, занядбáнне; нядбáйнасць, няўвáга; **the neglect of children by their parents** адсýтнасць бацькóўскага клóпату пра дзяцéй; **neglect of one's duty** халáтныя аднóсіны да (выканáння) сваíх абавя́зкаў **2.** запýшчанасць, закíнутасць, занядбáнасць; **in a state of neglect** у запýшчаным стáне; запýшчаны, занядбáны

**neglect²** [nɪˈglekt] *v.* **1.** не клапаці́цца (*аб кім-н./чым-н. і пра каго-н./што-н.*); запуска́ць, занядба́ць; **neglect one's studies** закіда́ць заня́ткі; *She neglects her children.* Яна (зусім) не клапоціцца пра сваіх дзяцей. **2.** не звярта́ць нале́жнай ува́гі (*на каго-н./што-н.*), не заўважа́ць, ігнарава́ць; *He neglected my remark.* Ён прапусціў маю заўвагу міма вушэй. **3.** *fml* упуска́ць, забыва́ць; не выќонваць абавя́зкі; *He neglected to tell us about it.* Ён не палічыў патрэбным расказаць нам пра гэта.

**neglectful** [nɪˈglektfl] *adj. fml* **(of)** нядба́йны, неруплі́вы; несумле́нны (*у адносінах да абавязкаў*)

**negligee** [ˈneglɪʒeɪ] *n.* пеньюа́р

**negligent** [ˈneglɪdʒənt] *adj.* **1.** *fml* нядба́йны, хала́тны, несумле́нны (*у адносінах да абавязкаў*); *He is negligent in his work.* Ён нядобрасумленна ставіцца да працы. **2.** бестурбо́тны; натура́льны, про́сты (*пра паводзіны, манеру апранацца*); **dress with negligent grace** апрана́цца про́ста і элега́нтна

**negligible** [ˈneglɪdʒəbl] *adj.* нязна́чны, мізэ́рны; неісто́тны; які́ не бяру́ць у разлі́к; **a negligible quantity** мізэ́рная ко́лькасць

**negotiate** [nɪˈgəʊʃieɪt] *v.* **1.** ве́сці перамо́вы/перагаво́ры, абмярко́ўваць умо́вы; дамаўля́цца; **negotiate with smb. for/about smth.** ве́сці перамо́вы з кім-н. аб чым-н.; **negotiate a contract/an agreement** заключа́ць кантра́кт/дагаво́р **2.** перабіра́цца, перапраўля́цца; пераадо́льваць (*перашкоды, цяжкасці*); **negotiate a wall** перабіра́цца/перала́зіць це́раз сцяну́

**negotiation** [nɪˌgəʊʃiˈeɪʃn] *n. звыч. pl.* перамо́вы, перагаво́ры; **open/carry on negotiations with smb.** пачына́ць/праця́гваць перамо́вы з кім-н.; *The matter is under negotiation.* Па гэтым пытанні вядуцца перамовы.

**negotiator** [nɪˈgəʊʃieɪtə] *n.* удзе́льнік перамо́ў

**Negress** [ˈniːgres] *n. dated, offensive* негрыця́нка

**Negro** [ˈniːgrəʊ] *n.* (*pl.* **Negroes**) *dated, offensive* негр; негрыця́нка

**neigh¹** [neɪ] *n.* ко́нскае ржа́нне

**neigh²** [neɪ] *v.* (і)ржа́ць (*пра коней*)

**neighbor** [ˈneɪbə] *AmE* = **neighbour**

**neighborhood** [ˈneɪbəhʊd] *AmE* = **neighbourhood**

**neighboring** [ˈneɪbərɪŋ] *AmE* = **neighbouring**

**neighborly** [ˈneɪbəli] *AmE* = **neighbourly**

**neighbour** [ˈneɪbə] *n.* **1.** сусе́д; сусе́дка (*па дому, кватэры, купэ і да т.п.*); *He is not afraid of what the neighbours will say.* Яго не палохае, што скажуць суседзі. **2.** прадме́т, які́ знахо́дзіцца по́бач **3.** *lit.* блі́зкі, блі́жні ♦ **you shall love your neighbour as yourself** *bibl.* палюбі́ блі́зкага твайго́, як само́га сябе́

**neighbourhood** [ˈneɪbəhʊd] *n.* **1.** сусе́дзі **2.** навако́лле, акру́га; раён, кварта́л **3.** сусе́дства, блі́зкасць ♦ **in the neighbourhood of** каля́, прыблі́зна

**neighbouring** [ˈneɪbərɪŋ] *adj.* сусе́дні, суме́жны

**neighbourly** [ˈneɪbəli] *adj.* добрасусе́дскі; добразычлі́вы, прыве́тлівы

**neither¹** [ˈnaɪðə, ˈniːðə] *adj., pron.* ніяќі; ні адзі́н, ні другі́; **neither of them** ніхто́ з іх; *Will you have tea or coffee? – Neither, thanks.* Ты вып'еш чаю або кавы? – Ні таго, ні другога, дзякуй.

**neither²** [ˈnaɪðə, ˈniːðə] *adv.* такса́ма не; *I can't swim. – Neither can I.* Я не ўмею плаваць. – Я таксама (не ўмею); **neither...nor** ні...ні; *Neither my wife nor I were there.* Ні я, ні жонка не былі там.

**nemesis** [ˈneməsɪs] *n.* **1. Nemesis** *myth.* Немезі́да (*багіня адплаты*) **2.** *fml* ка́ра, пакара́нне, адпла́та, непазбе́жная распла́та

**neolithic** [ˌniːəˈlɪθɪk] *adj.* неаліты́чны; **the Neolithic Age** эпо́ха неалі́ту, неалі́т

**neologism** [niˈɒlədʒɪzəm] *n. ling.* неалагі́зм

**neon¹** [ˈniːɒn] *n. chem.* нео́н

**neon²** [ˈniːɒn] *adj.* нео́навы; **neon lighting** нео́навае асвятле́нне; **a neon sign** нео́навая рэкла́ма; нео́навая вы́веска

**nephew** [ˈnefjuː] *n.* пляме́ннік

**nepotism** [ˈnepətɪzəm] *n.* непаты́зм; кумаўство́, сяме́йнасць

**Neptune** [ˈneptjuːn] *n.* **1.** *astron.* (плане́та) Нептýн **2.** *myth.* Непту́н (*бог мораў*)

**nerve** [nɜːv] *n.* **1.** *anat.* нерв; **the optic nerve** зро́кавы нерв **2. nerves** не́рвы, нервo̍васць; нерво́вая сістэ́ма **3.** му́жнасць, прысу́тнасць ду́ху, вы́трымка; **lose one's nerve** тра́ціць самавало́данне, бая́цца **4.** *infml* наха́бнасць, наха́бства, дзёрзкасць; *What a nerve!* Якое нахабства! **5.** сла́бае/балю́чае/хво́рае ме́сца ♦ **steel nerves/nerves of steel** жале́зныя не́рвы; **get on smb.'s nerves** *infml* дзе́йнічаць на не́рвы, нервава́ць, раздражня́ць; **hit/touch a (raw/sensitive) nerve** крана́ць за жыво́е; **steady one's nerves** супако́йваць не́рвы; *I'm just **a bundle of nerves** today. infml* Сёння я проста суцэльны камяк нерваў.

**nerve-racking** [ˈnɜːvrækɪŋ] *adj.* раздражня́льны; які́ нерву́е, які́ дзе́йнічае на не́рвы

**nerve-wracking** [ˈnɜːvrækɪŋ] = **nerve-racking**

**nervous** [ˈnɜːvəs] *adj.* **1. (about, of)** баязлі́вы; спало́ханы; які́ баі́цца; непако́іцца; **be/feel**

**nervous about smth.** нервава́цца/хвалява́цца з-за чаго́-н.; *Mary has always been nervous of big dogs.* Мэры заўсёды баялася вялікіх сабак. **2.** усхваляваны, узбу́джаны, нерво́вы; *He gave a nervous laugh.* Ён нервова рассмяяўся. **3.** *med.* нерво́вы, нерво́зны; **a nervous disorder** нерво́вае расстро́йства, расстро́йства не́рваў ♦ **be nervous of one's own shadow** бая́цца свайго́ (ула́снага) це́ню

**nervous breakdown** [ˌnɜːvəsˈbreɪkdaʊn] *n. med.* нерво́вы зрыў, нерво́вае расстро́йства

**nervous system** [ˈnɜːvəssɪstəm] *n.* нерво́вая сістэ́ма

**nest¹** [nest] *n.* **1.** гнязд́о; **a bird's nest** птушы́нае гнязд́о; **a wasps' nest** ася́нае гнязд́о **2.** прыто́н; **a nest of thieves** зладзе́йскі прыто́н; **a nest of vice** прыто́н разбэ́шчанасці **3.** бацько́ўскі дом; ро́днае гнязд́о **4.** уту́льны куто́чак; гняздзе́чка **5.** гру́па, набо́р аднаро́дных прадме́таў; камплéкт прадме́таў, што ўстаўля́юцца ў адну́ ўмяшча́льню або адзі́н у адзі́н; **a nest of tables** камплéкт сто́лікаў, якія ўстаўля́юцца адзі́н у адзі́н ♦ **fly/leave the nest** пакіда́ць бацько́ўскі дом; **feather one's nest** набіва́ць кішэ́нь; абагача́цца, нажыва́цца

**nest²** [nest] *v.* віць гнязд́о; гняздзі́цца, гнездава́цца

**nest egg** [ˈnesteg] *n. infml* гро́шы/зберажэ́нні на чо́рны дзень; су́ма, адкла́дзеная для пэ́ўнай мэ́ты

**nestle** [ˈnesl] *v.* **1.** уту́льна/зру́чна ўладко́ўвацца; **nestle (down) in a chair with a book** уту́льна ўладко́ўвацца з кні́жкай у крэ́сле **2.** тулі́цца, хава́цца, знахо́дзіцца ў заці́шным і бяспе́чным ме́сцы (*звыч. пра хату, вёску і да т.п.*); *A small village nestled near the forest to their right.* Направа ад іх каля лесу тулілася нейкая вёсачка. **3. (on, against)** (пяшчо́тна) тулі́цца, гарну́цца, прыціска́цца; *She nestled her head on his shoulder.* Яна прыхіліла галаву да яго пляча.

**nestling** [ˈnestlɪŋ] *n.* птушаня́, птушанё

**net¹** [net] *n.* **1.** се́тка (*матэрыял*); **a nylon net** нейло́навая се́тка, се́тка з нейло́ну **2.** се́тка (*прыстасаванне*); **a fishing net** рыбало́ўная се́тка, не́вад; **a mosquito net** маскі́тная се́тка, накама́рнік; **a tennis net** тэ́нісная се́тка **3. the net** се́тка (*у тэнісе*); варо́ты (*у футболе, хакеі*) **4.** се́тка (*пра сістэмы дарог, правадоў, прадпрыемстваў*); **a radio net** радыёсе́тка; **a communication(s) net** камунікацы́йная се́тка; **the Net** *infml* се́тка, інтэрнэ́т

**net²** [net] *adj.* чы́сты (*пра колькасць, вагу і да т.п.*); не́та (*пра вагу*); **net profit** чы́сты прыбы́так; **net weight** чы́стая вага́, не́та-вага́; *I received 5 pounds net.* Я атрымаў на рукі 5 фунтаў.

**netball** [ˈnetbɔːl] *n. sport* нетбо́л (*жаночая гульня, падобная да баскетбола*)

**nett** [net] *BrE* = **net²**

**nettle¹** [ˈnetl] *n.* крапіва́ ♦ **grasp the nettle** рашу́ча бра́цца за склада́ную спра́ву

**nettle²** [ˈnetl] *v.* **1.** *infml* раздражня́ць, злава́ць, кало́ць, абража́ць; *Barbara's remark nettled Peter.* Заўвага Барбары ўкалола Пітэра. **2.** апяка́ць крапіво́й

**nettle-rash** [ˈnetlˌræʃ] *n. med.* крапі́ўніца, крапі́ўная ліхама́нка

**network** [ˈnetwɜːk] *n.* **1.** се́тка (*дарог, каналаў, сасудаў і да т.п.*); **a rail network** чыгу́начная се́тка; **the network of bloodvessels** се́тка крывяно́сных сасу́даў **2.** се́тка, сістэ́ма (*прадпрыемстваў, арганізацый і да т.п.*); **a network of clinics** се́тка лячэ́бніц **3.** тэ́ле-/радыёсе́тка; се́ткавае вяшча́нне; **a national television network** агульнанацыяна́льнае тэлебачанне

**neuralgia** [njʊəˈrældʒə] *n. med.* неўралгі́я

**neurologist** [njʊəˈrɒlədʒɪst] *n.* неўро́лаг, неўрапато́лаг

**neuron** [ˈnjʊərɒn] *n. anat.* нейро́н, нерво́вая клéтка

**neuroses** [njʊəˈrəʊsiːz] *pl.* → **neurosis**

**neurosis** [njʊəˈrəʊsɪs] *n.* (*pl.* **neuroses**) **1.** *med.* неўро́з **2.** мо́цнае хваля́ванне, пачуццё і стан ве́льмі мо́цнага стра́ху

**neurotic¹** [njʊəˈrɒtɪk] *n.* неўро́тык, неўрастэ́нік

**neurotic²** [njʊəˈrɒtɪk] *adj.* неўраты́чны, нерво́вы

**neuter¹** [ˈnjuːtə] *adj.* **1.** *ling.* нія́кага ро́ду **2.** бяспо́лы (*пра жывёл, расліны*); *Worker bees are neuter.* Рабочыя пчолы не маюць полу.

**neuter²** [ˈnjuːtə] *v.* паклада́ць, лягча́ць, кастры́раваць (*жывёлу*)

**neutral** [ˈnjuːtrəl] *adj.* **1.** нейтра́льны; бесстаро́нні; **a neutral country** нейтра́льная краі́на; **neutral waters** нейтра́льныя во́ды; **a neutral opinion** непрадузя́ты по́гляд; **be/remain neutral** захо́ўваць нейтралітэ́т **2.** нейтра́льны, безува́жны, безудзе́льны (*пра голас, позірк, адносіны*) **3.** нейтра́льны, няя́ркі, спако́йны (*звыч. пра колер*) ♦ **meet on neutral ground/territory** сустрака́цца на нейтра́льнай паласé

**neutrality** [njuːˈtræləti] *n.* нейтралітэ́т

**neutralize,** *BrE* **-ise** [ˈnjuːtrəlaɪz] *v.* нейтралізава́ць; **neutralize an acid** *chem.* нейтралізава́ць кісла́ту

**neutron** [ˈnjuːtrɒn] *n. phys.* нейтро́н

**neutron bomb** [ˈnjuːtrɒnbɒm] *n.* нейтро́нная бо́мба

**never** [ˈnevə] *adv.* **1.** ніко́лі, ні ра́зу; **you can never know** ніко́лі не ве́даеш напе́рад; *Never in my life have I heard such nonsense!* Ніколі ў жыцці яшчэ не чуў такой бязглуздзіцы! **2.** не, ні (*ужываецца для ўзмацнення адмаўлення*); *He never uttered a word and never so much as smiled.* Ён не вымавіў ні слова і нават не ўсміхнуўся. ♦ **(well,) I never (did)!** ніко́лі нічо́га падо́бнага не чуў і не ба́чыў!, ну і ну!, вось табе́ і на!; **the morning sun never lasts a day** ≅ шча́сце і тра́сца – пераходныя сва́цці; **never say die** не адча́йвайся; не па́дай ду́хам; ≅ і чо́рная хма́ра бе́лым во́блакам абе́рнецца

**never-ending** [ˌnevərˈendɪŋ] *adj.* няспы́нны; бесперапы́нны; безупы́нны; бяско́нцы; *This work is never-ending.* Гэтай працы канца-краю не відаць.

**nevermore** [ˌnevəˈmɔː] *adv. dated* больш ніко́лі

**never-never** [ˌnevəˈnevə] *n. BrE, infml* купля́нне ў растэрміно́ўку/у крэды́т; *She bought her car on the never-never.* Яна купіла машыну ў крэдыт.

**never-never land** [ˌnevəˈnevəlænd] *n.* ка́зачная краі́на даста́тку і бага́цця; краі́на, дзе здзяйсня́юцца ма́ры

**nevertheless** [ˌnevəðəˈles] *adv.* тым не менш, усё ж, нягле́дзячы на

**new** [njuː] *adj.* **1.** но́вы; **a new film** но́вы фільм **2.** незнаёмы; нязвы́клы, нязвы́чны; *This part of Africa was new to him.* З гэтай часткай Афрыкі ён не быў яшчэ знаёмы. **3.** све́жы; **new bread** то́лькі што спе́чаны/све́жы хлеб; **new potatoes** мала́да́я бу́льба **4.** суча́сны, найно́ўшы; навамо́дны; **the newest fashions** апо́шнія фасо́ны ўбо́раў **5.** но́вы, і́ншы, другі́; **a new day** но́вы дзень ♦ **(as) good as new** як но́вы/но́венькі; **turn over a new leaf/start a new life** пачына́ць но́вае жыццё; выпраўля́цца, станаві́цца ле́пшым; **new broom** но́вае нача́льства, но́вая мятла́ (*перан.*); **tomorrow is a new day** ≅ ра́ніца мудрэ́йшая за ве́чар; што было́, то ба́чылі, а што бу́дзе – паба́чым

**newborn** [ˈnjuːbɔːn] *adj.* нованаро́джаны

**newcomer** [ˈnjuːkʌmə] *n.* **(to) 1.** новапрыбы́ўшы, прые́зджы **2.** наві́чо́к, малады́ спецыялі́ст; *He is a newcomer to teaching.* Ён навічок у навучанні.

**newfangled** [ˌnjuːˈfæŋgld] *adj. derog.* навамо́дны, новаспе́чаны (*пра ідэі, з'явы, рэчы*)

**new-laid** [ˌnjuːˈleɪd] *adj.* све́жы, то́лькі што зне́сены (*пра яйка*)

**newly** [ˈnjuːli] *adv.* **1.** няда́ўна; **a newly built house** няда́ўна пабудава́ны дом; **a newly married couple** маладажо́ны, малады́я **2.** за́нава, на́нава, нано́ва; **a newly painted gate** свежапафарбава́ныя/то́лькі што пафарбава́ныя варо́ты

**newly-wed** [ˈnjuːliwed] *n. звыч. pl.* **the newlyweds** маладажо́ны, малады́я

**new moon** [ˌnjuːˈmuːn] *n.* маладзі́к, пе́ршая ква́дра Ме́сяца

**news** [njuːz] *n.* **1.** наві́на́, ве́стка, паведамле́нне, но́вая інфарма́цыя; **bad news** дрэ́нная/ке́пская наві́на́; **good news** до́брая/прые́мная наві́на́; **have/hear no news from smb.** не атры́мліваць ве́сткі пра каго́-н.; *Have you heard the news about Mary?* Ты чуў навіну пра Мэры? **2.** наві́ны, паведамле́нне (*друку, радыё і да т.п.*); **the latest news** апо́шнія наві́ны; **foreign news** паведамле́нні з-за мяжы́; **international news** міжнаро́дныя наві́ны; **local/national news** паведамле́нні пра падзе́і ў краі́не; **be in the news** папада́ць/трапля́ць на старо́нкі газе́т; ака́звацца ў цэ́нтры ўва́гі; **make the news** быць прадме́там газе́тных паведамле́нняў **3. the news** «Наві́ны» (*інфармацыйная праграма радыё і тэлебачання*) ♦ **break the news to someone** (асцяро́жна) паведамля́ць каму́-н. аб чым-н. непрые́мным; **that's news to me** *infml* гэ́та для мяне́ наві́на́; пе́ршы раз пра гэ́та чу́ю; **no news is good news** ≅ адсу́тнасць наві́н – до́брая наві́на́

**news agency** [ˈnjuːzˌeɪdʒənsi] *n.* аге́нцтва дру́ку; тэлеграфнае аге́нцтва

**newsagent** [ˈnjuːzˌeɪdʒənt] *n.* прадаве́ц газе́т, часо́пісаў і да т.п.; кіяскёр; кіяскёрка

**newsagent's** [ˈnjuːzˌeɪdʒənts] *n.* газе́тны кіёск

**newscaster** [ˈnjuːzkɑːstə] *n.* ды́ктар апо́шніх наві́н (*на радыё ці тэлебачанні*)

**news conference** [ˈnjuːzkɒnfərəns] *n.* прэсканферэ́нцыя

**newsflash** [ˈnjuːzflæʃ] *n.* (каро́ткае) э́кстраннае паведамле́нне; *We interrupt our programmes for a newsflash.* Мы перарываем трансляцыю нашых перадач для экстраннага паведамлення.

**newshound** [ˈnjuːzhaʊnd] *n. infml* (зана́дта руплі́вы і заўзя́ты) рэпарцёр; рэпарцёрка (*газеты*); газе́тчык; газе́тчыца

**newsletter** [ˈnjuːzletə] *n.* інфармацы́йны бюлетэ́нь

**newspaper** [ˈnjuːzpeɪpə] *n.* **1.** газе́та (*перыядычнае выданне*); **a daily/weekly newspaper** штодзённая/штотыднёвая газе́та; **an evening newspaper** вячэ́рняя газе́та; **a national**

**newspaper** цэнтра́льная газе́та; **a newspaper clipping** газе́тная вы́разка; **a newspaper headline** газе́тны загало́вак **2.** (стара́я) газе́тная папе́ра **3.** газе́та (*выдавецтва*); *I think she works for a local newspaper.* Мяркую, яна працуе ў мясцовай газеце.

**newsprint** [ˈnjuːzprɪnt] *n.* газе́тная папе́ра

**newsreader** [ˈnjuːzriːdə] *n. BrE* ды́ктар апо́шніх наві́н (*на радыё ці тэлебачанні*)

**newsreel** [ˈnjuːzriːl] *n.* кінахро́ніка, кіначасо́піс

**newsroom** [ˈnjuːzruːm] *n.* аддзе́л наві́н (*у рэдакцыі газеты, радыё ці тэлебачання*)

**news-stand** [ˈnjuːzstænd] *n.* газе́тны лато́к (*на вуліцы, вакзале*)

**newsvendor** [ˈnjuːzˌvendə] *n. BrE* прадаве́ц газе́т, газе́тчык

**newt** [njuːt] *n. zool.* тры́то́н

**New Testament** [ˌnjuːˈtestəmənt] *n.* **the New Testament** Но́вы Запаве́т (*другая частка Бібліі*)

**New World** [ˌnjuːˈwɜːld] *n.* **the New World** Но́вы Свет, Аме́рыка

**New Year** [ˌnjuːˈjɪə] *n.* Но́вы год; **New Year's Eve** наваго́дняя ноч, пярэ́дадне Но́вага го́да (*31 снежня*); **New Year's Day** пе́ршы дзень Но́вага го́да (*1 студзеня*); **Happy New Year!** З Но́вым го́дам!; **the new year** пе́ршыя не́калькі ты́дняў го́да; **a New Year's resolution** абяца́нне, якóе дае́ сабе́ чалаве́к пад Но́вы год (*кінуць курыць, трымацца дыеты і да т. п.*)

**next¹** [nekst] *adj.* **1.** насту́пны, які́ ідзе́ сле́дам; **the next turning to the left** пе́ршы паваро́т нале́ва; *Next, please!* (Хто) наступны! (*да наведвальнікаў*) **2.** насту́пны, бу́дучы; **(the) next day** на другі́ дзень, (на)за́ўтра; **next year** у насту́пным, бу́дучым го́дзе, нале́та; **(the) next time** другі́м ра́зам; *Your papers will be ready on Tuesday next.* Вашы дакументы будуць гатовыя на наступным тыдні ў аўторак. **3.** сусе́дні; **in the next room** у сусе́днім пакóі; **next but one** праз адзі́н ♦ **the next world** той свет, замагі́льны свет; **the next man** любы́, ко́жны; *He understands this as well as the next man.* Ён разумее гэта не горш за каго іншага.

**next²** [nekst] *adv.* **1.** по́тым, пасля́, заты́м; *What shall we do next?* Што нам рабіць далей? **2.** зноў, у насту́пны раз; *I'll tell you about it when we next meet.* Я скажу вам пра гэта, калі мы зноў сустрэнемся; *Whatever next! infml* Яшчэ чаго! Гэтага яшчэ не хапала!

**next-door** [ˌnekstˈdɔː] *adj.* сусе́дні; *Mary is my next-door neighbour.* Мэры – мая суседка.

**next door** [ˌnekstˈdɔː] *adv.* **1.** па сусе́дству, по́бач; *I live next door to a café.* Я жыву побач з кафэ. **2. (to)** ама́ль; *It is next door to crime.* Гэта амаль тое самае, што і злачынства.

**next to** [ˈnekstə] *prep.* **1.** по́бач (з/са), каля́, ля; *I sat next to him.* Я сядзеў побач з ім. **2.** пасля́; другі́ па ва́жнасці, велічыні́ і да т.п.; *Next to swimming his favourite sport was basketball.* Пасля плавання яго любімым відам спорту быў баскетбол. **3.** ама́ль; *It cost me next to nothing.* Гэта мне амаль нічога не каштавала.

**NFL** [ˌenefˈel] (*скар. ад* **National Football League**) НФЛ, Нацыяна́льная футбо́льная лі́га (*ЗША*)

**NHS** [ˌeneɪtʃˈes] **the NHS** (*скар. ад* **National Health Service**) Дзяржа́ўная слу́жба ахо́вы здаро́ўя (*у Вялікабрытаніі*)

**nib** [nɪb] *n.* ко́нчык, вастрыё пяра́

**nibble** [ˈnɪbl] *v.* **1. (at)** паку́сваць; е́сці мале́нькімі кава́лачкамі; е́сці без апеты́ту; *For breakfast he would nibble at a piece of biscuit.* Замест снедання ён толькі пагрызе кавалачак пячэння – і ўсё. **2.** гры́зці; абгрыза́ць; адку́сваць; шчыпа́ць, скубці́ (*траву*) **3.** паступовa разбура́ць, падто́чваць **4.** не адва́жвацца, не асме́львацца (*на што-н.*); хіста́цца, вага́цца; **nibble at an offer** разду́мваць над прапано́вай

**nibs** [nɪbz] *n. dated, infml* ва́жная персо́на, шы́шка ♦ **his nibs** яго́ мі́ласць

**nice** [naɪs] *adj.* **1.** прые́мны, мі́лы, сла́ўны, до́брьі; **a nice smile** прые́мная ўсме́шка; **a nice day** до́бры/паго́длівы дзень; **that's very nice of you** гэ́та ве́льмі ласка́ва з ва́шага бо́ку; **it's been nice meeting you** прые́мна было́ з ва́мі пазнаёміцца **2.** *iron.* до́бры, до́бранькі; *This is a nice mess you've got us into!* У добрую ж гісторыю вы нас уцягнулі! **3.** то́нкі, во́стры; **a nice distinction** то́нкае адро́зненне; **a nice shade of meaning** то́нкае адце́нне ў значэ́нні; **a nice ear** то́нкі/во́стры слых **4.** склада́ны, ця́жкі; які́ патрабу́е вялі́кай дакла́днасці, асцяро́гі і далікáтнасці; **a nice point of law** склада́нае юрыды́чнае пыта́нне **5. :** *The porridge was nice and hot.* Аўсяная каша была па-сапраўднаму гарачая; *The bus is going nice and fast.* Аўтобус ідзе даволі хутка. ♦ **as nice as pie** ве́льмі до́бры, ве́тлівы, прыя́зны, абыхо́длівы; ≅ хоць (ты) да ра́ны кладзі́

**nicely** [ˈnaɪsli] *adv.* **1.** до́бра; здавальня́юча; *Little Sam was very offended and he decided he could manage quite nicely without his parents.* Маленькі Сэм быў вельмі пакрыўджаны і вырашыў, што здолее даволі добра абысціся

без сваіх бацькоў. **2.** мíла, вéтліва, прыя́зна; хóраша, прыéмна; **smile nicely** мíла/прыéмна ўсміхáцца **3.** *fml* даклáдна; тóнка, па-майстэ́рску, умéла; **a nicely calculated quantity** даклáдна вы́лічаная велічыня́

**nicety** [ˈnaɪsəti] *n.* **1.** тóнкасць, далікáтнасць (*у падыходзе, у пытанні і да т.п.*) **2.** *звыч. pl.* тóнкасці, дэтáлі; *We haven't time to consider all the niceties of the question.* Мы не маем часу ўдавацца ва ўсе тонкасці справы. **3.** *fml* даклáднасць, акурáтнасць; **to a nicety** як мáе быць, як налéжыць, як след; даклáдна

**niche** [niːʃ] *n.* **1.** нíша **2.** сваё/налéжнае мéсца; **find a niche for oneself** знайсцí сваё мéсца ў жыццí **3.** *econ.* сфéра прымянéння

**nick**[1] [nɪk] *n.* **1.** парэ́з; зару́бка, засéчка, зазу́брына, шчарбíна **2. the nick** *BrE, infml* турмá, каталáжка; **three years in the nick** тры гады́ ў турмé **3.** даклáдны мóмант ♦ **in the (very) nick of time** *infml* якрáз у час/у пару́; у сáмы апóшні мóмант; **in good nick** *infml* у дóбрым стáне

**nick**[2] [nɪk] *v.* **1.** разразáць; рабíць зару́бку **2.** *BrE, infml* цягну́ць, крáсці; *Someone has nicked my suitcase.* Нехта сцягнуў мой чамадан. **3.** *BrE, infml* зацáпваць, хапáць (*злачынцу*); *The police nicked him for stealing my suitcase.* Паліцыя сцапала яго за крадзеж майго чамадана.

**nickel**[1] [ˈnɪkl] *n.* **1.** *chem.* нíкель (*метал*) **2.** манéта ў 5 цэ́нтаў (*у ЗША, Канадзе*)

**nickel**[2] [ˈnɪkl] *v.* нікеліравáць; **nickelled/nickel-plated steel** нікеліравáная сталь

**nicker** [ˈnɪkə] *n. BrE, dated, slang* фунт стэ́рлінгаў

**nickname**[1] [ˈnɪkneɪm] *n.* мяну́шка

**nickname**[2] [ˈnɪkneɪm] *v.* давáць мяну́шку, празывáць; *Philip's friends nicknamed him "Snail" because he was so sluggish.* Сябры празвалі Філіпа Смаўжом за тое, што ён быў вельмі марудлівы.

**nicotine** [ˈnɪkətiːn] *n.* нікацíн

**niece** [niːs] *n.* плямéнніца

**nifty** [ˈnɪfti] *adj. infml* **1.** спры́тны, умéлы **2.** эфекты́ўны, кары́сны і прóсты адначасóва; **a nifty little gadget for peeling potatoes** эфекты́ўная невялíкая прылáда для абірáння бу́льбы **3.** прывáбны, элегáнтны, мóдны

**Nigerian**[1] [naɪˈdʒɪəriən] *n.* нігеры́ец; нігеры́йка; **the Nigerians** нігеры́йцы

**Nigerian**[2] [naɪˈdʒɪəriən] *adj.* нігеры́йскі

**niggardly** [ˈnɪgədli] *adj.* **1.** скупы́, скнáрлівы, прáгны **2.** мізэ́рны, убóгі; нікчэ́мны (*пра падарунак, зарплату і да т. п.*)

**niggle** [ˈnɪgl] *v.* **1.** хвалявáць, не давáць спакóю, раздражня́ць (*злёгку, але на працягу доўгага часу*); *It's been niggling at my mind ever since I bought the car.* Гэта думка не дае мне спакою з таго часу, як я набыў машыну. **2. (at smb.) (about/over smth.)** прыдзірáцца да дрóбязі **3.** займáцца глу́пствам, пусцякáмі; размéньвацца на дрóбязі

**night** [naɪt] *n.* **1.** ноч; вéчар; **at night** уначы́, унóчы, нóччу; увéчары, увéчар, вéчарам; **by night** на працягу ўсёй нóчы, (праз) усю ноч; **last night** учóра вéчарам; **all night long** усю́ ноч напралёт **2.** вéчар, адвéдзены ці вы́значаны для якóга-н. мерапрыéмства; **first night** прэм'éра, пéршы пакáз (*спектакля, цыркавой праграмы і да т.п.*) ♦ **at/in the dead of night** глыбóкай нóччу; у глуху́ю пóўнач; **night and day/day and night** і дзень і ноч, увéсь час; бесперастáнку, безупы́нна; **have an early/a late night** рáна/пóзна клáсціся спаць; **have a good/bad night** дóбра/дрэ́нна спаць; **good night!** дóбрай нóчы!, дабрáнач!; **make a night of it** *infml* прагуля́ць/прап'я́нстваваць усю ноч

**night blindness** [ˌnaɪtˈblaɪndnəs] *n. med.* куры́ная слепатá, нікталóпія (*хвароба вачэй*)

**nightcap** [ˈnaɪtkæp] *n.* **1.** шкля́нка/кілíшак (*спіртнога*) пéрад сном **2.** начны́ каўпáк

**nightclub** [ˈnaɪtklʌb] *n.* начны́ клуб

**nightdress** [ˈnaɪtdres] *n. BrE* начнáя кашу́ля (*жаночая*)

**nightfall** [ˈnaɪtfɔːl] *n.* змяркáнне, надыхóд нóчы; **by nightfall** пад вéчар

**nightie** [ˈnaɪti] *n. infml* начнáя кашу́ля (*жаночая*)

**nightingale** [ˈnaɪtɪŋgeɪl] *n. zool.* салавéй

**nightjar** [ˈnaɪtdʒɑː] *n. zool.* казадóй, ляля́к (*птушка*)

**nightlife** [ˈnaɪtlaɪf] *n.* начнóе жыццё (*горада*)

**nightlight** [ˈnaɪtlaɪt] *n.* начнíк (*няяркая лямпачка або свечка*)

**nightlong**[1] [ˌnaɪtˈlɒŋ] *adj.* якí праця́гваецца/дóўжыцца/не спыня́ецца ўсю ноч; **a nightlong vigil** начнóе няспáнне, дзяжу́рства

**nightlong**[2] [ˌnaɪtˈlɒŋ] *adv.* на праця́гу ўсёй нóчы, усю ноч (напралёт)

**nightly**[1] [ˈnaɪtli] *adj.* штовячэ́рні, штонóчны; **a nightly news broadcast** штовячэ́рняя прагрáма навíн

**nightly**[2] [ˈnaɪtli] *adv.* **1.** штовéчар, кóжны вéчар; штонóч, кóжную ноч **2.** па вечарáх; па начáх

**nightmare** [ˈnaɪtmeə] *n.* **1.** кашмáр; стрáшны/жу́дасны сон; *Last night I had a nightmare.* (Сёння) уночы мне прысніўся кашмар.

**2.** жах, кашмáр; **the nightmares of war** жáхі вайны́

**nightmarish** [ˈnaɪtmeərɪʃ] *adj.* кашмáрны, жахлі́вы, жу́дасны, стрáшны

**night owl** [ˈnaɪtaʊl] *n. infml* паўнóчнік, начні́к; паўнóчніца, начні́ца (*пра таго, хто не кладзецца спаць да позняй ночы*)

**night school** [ˈnaɪtsku:l] *n.* вячэ́рнія ку́рсы, вячэ́рняя шкóла

**nightshade** [ˈnaɪtʃeɪd] *n. bot.* паслён, лі́снік; **the nightshade family** сямéйства паслёнавых

**night shift** [ˈnaɪtʃɪft] *n.* **1.** начнáя змéна (*прамежак часу*); *He was on the night shift.* Ён працаваў у начную змену. **2.** начнáя змéна (*група людзей*)

**night-time** [ˈnaɪttaɪm] *n.* начны́ час, ноч; **in the night-time** уначы́, унóчы, нóччу; **animals that hunt at night-time** жывёлы, што палю́юць уначы́

**nightwatchman** [naɪtˈwɒtʃmən] *n.* начны́ вартаўні́к/стóраж; начнáя вартаўні́ца/старóжка

**nihilism** [ˈnaɪɪlɪzəm] *n.* нігілі́зм

**nil** [nɪl] *n.* **1.** *sport* нуль; *They won the match three nil.* Яны выйгралі матч з лікам 3:0. **2.** нуль, нічóга; **reduce the danger to nil** звóдзіць небяспéку да нуля́

**nimbi** [ˈnɪmbaɪ] *pl.* → **nimbus**

**nimble** [ˈnɪmbl] *adj.* **1.** жвáвы, бóрзды, рухáвы (*пра чалавека*); **nimble fingers** спры́тныя пáльцы; *He is nimble on his feet.* Ён вельмі рухавы. **2.** жывы́, гі́бкі (*пра розум*); **nimble wits** знахóдлівасць, дасці́пнасць, кéмлівасць

**nimbly** [ˈnɪmbli] *adv.* жвáва, бóрзда, рухáва, ху́тка

**nimbus** [ˈnɪmbəs] *n.* (*pl.* **nimbi** *or* **nimbuses**) **1.** дажджавóе вóблака **2.** німб, арэóл, ззя́нне

**nincompoop** [ˈnɪŋkəmpu:p] *n. infml, dated* ду́рань, дурны́; дурні́ца, дурнáя

**nine** [naɪn] *num., n.* дзéвяць; дзявя́цера; дзявя́тка; **nine hundred** дзевяцьсóт; **the nine of diamonds** званкóвая дзявя́тка (*у картах*) ♦ **nine times out of ten** у бóльшасці вы́падкаў, амáль заўсёды; **a nine days' wonder** злóба дня, кароткачасóвая сенсáцыя; **be on cloud nine** ≅ быць на сёмым/дзяся́тым нéбе (*ад радасці, шчасця і да т.п.*); быць на вышыні́ шчáсця; адчувáць сябé бязмéрна шчаслі́вым; **dressed (up) to the nines** *infml* вéльмі (шыкóўна) разадзéты; расфрáнчаны

**ninepins** [ˈnaɪnpɪnz] *n. sport* кéглі

**nineteen** [ˌnaɪnˈti:n] *num.* дзевятнáццаць ♦ **talk nineteen to the dozen** *infml* трашчáць; гавары́ць беспераста́нку/не змаўкáючы

**nineteenth** [ˌnaɪnˈti:nθ] *num., n.* дзевятнáццаты; **a nineteenth** дзевятнáццатая чáстка, аднá дзевятнáццатая

**ninetieth** [ˈnaɪntiəθ] *num., n.* дзевянóсты; **a ninetieth** дзевянóстая чáстка, аднá дзевянóстая

**ninety** [ˈnaɪnti] *num.* дзевянóста; **the nineties** дзевянóстыя гады́ ♦ **ninety-nine times out of a hundred** у бóльшасці вы́падкаў, амáль заўсёды

**ninth** [naɪnθ] *num., n.* дзявя́ты; **a ninth** дзявя́тая чáстка, аднá дзявя́тая

**nip¹** [nɪp] *n.* **1.** шчыпóк; **give smb. a nip** ушчыпну́ць кагó-н. **2.** уку́с; *The dog gave me a nip on the arm.* Сабака ўкусіў мяне за руку. **3.** пахаладáнне; *There's a nip in the air today.* Сёння мароз пашчыпвае. **4.** *infml* глытóк, чáрачка (*спіртнога*); **a nip of whisky** глытóк, чáрачка ві́скі; **take a nip** прапусці́ць па малéнькай

**nip²** [nɪp] *v.* **1.** шчыпáць; ця́пнуць (*пра сабаку*); *The crab nipped my hand.* Краб ушчыпнуў мяне за руку. **2.** прыці́снуць, прышчамі́ць; *I nipped my finger in the door.* Я прыціснуў палец дзвярамі. **3.** псавáць, шкóдзіць (*пра вецер, мароз і да т.п.*); пабі́ць (*пра град, мароз і да т.п.*); *The frost has nipped all the roses.* Мароз пабіў усе ружы. **4.** стры́мліваць, спыня́ць, падаўля́ць **5.** *BrE, infml* ху́тка ісці́, спяшáцца; *I'll nip on ahead.* Я пабягу наперад; **nip down/out to the shop** *infml* забéгчы ў крáму ♦ **nip smth. in the bud** выкараня́ць; падаўля́ць што-н. у зарóдку

**nip in** [ˌnɪpˈɪn] *phr.v. infml* уціскáцца, праціскáцца, пралáзіць (упéрад); *She nipped in just in front of me.* Яна праціснулася і стала якраз перада мной.

**nip off** [ˌnɪpˈɒf] *phr.v.* адшчы́пваць, прышчы́пваць (*звыч. пра расліны*); *She nipped off a dead flower.* Яна адшчыпнула засохлую кветку.

**nipper** [ˈnɪpə] *n. BrE, infml* малы́ш; малы́шка

**nippers** [ˈnɪpəz] *n. tech.* вастрагу́бцы; кусáчкі; шчыпцы́

**nipple** [ˈnɪpl] *n.* **1.** сасóк (грудзéй) **2.** сóска **3.** *tech.* ні́пель

**nippy** [ˈnɪpi] *adj. infml* **1.** вéльмі халóдны; **a nippy morning** халóдная рáніца; *The weather is nippy today.* Сёння марозіць. **2.** *BrE* шпáркі, рухáвы; *You'll have to be nippy if you want to be on time.* Табе трэба варушыцца, калі не хочаш прыпазніцца.

**nirvana** [nɪəˈvɑ:nə] *n.* нірвáна

**nisi** [ˈnaɪsaɪ] *conj.* калі́ не; **decree nisi** *law* умо́ўная пастано́ва суда́ (*набывае сілу з вызначанага тэрміну, калі да гэтага часу яна не будзе скасавана*)

**nit** [nɪt] *n.* **1.** гні́да (*яйцо вошы*) **2.** *BrE, infml* крэці́н, ідыёт, тупі́ца; крэці́нка, ідыётка, тупі́ца

**nit-picking** [ˈnɪtpɪkɪŋ] *n. infml* шука́нне недахо́паў, прыдзі́ркі з-за дро́бязей; ≅ ло́ўля блох

**nitrate** [ˈnaɪtreɪt] *n. chem.* нітра́т, соль або́ эфі́р азо́тнай кіслаты́

**nitric** [ˈnaɪtrɪk] *adj. chem.* азо́тны; **nitric acid** азо́тная кіслата́

**nitrogen** [ˈnaɪtrədʒən] *n. chem.* азо́т

**nitroglycerine** [ˌnaɪtrəʊˈglɪsəriːn] *n.* нітрагліцэры́на

**nitty-gritty** [ˌnɪtiˈgrɪti] *n. infml* **the nitty-gritty** су́тнасць спра́вы, канкрэ́тныя дэта́лі, «уся́ ку́хня»; **the nitty-gritty of politics** паліты́чная ку́хня

**nitwit** [ˈnɪtwɪt] *n. infml* крэці́н, тупі́ца, ду́рань; крэці́нка, тупі́ца, дурні́ца

**no¹** [nəʊ] *n.* (*pl.* **noes**) **1.** адмо́ва, адмо́ўнае рашэ́нне **2. the noes** галасы́ су́праць; *The noes have it!* Большасць супраць!

**no²** [nəʊ] *adj.* **1.** нія́кі, ні адзі́н; няма́; зусі́м не; *It's of no importance.* Гэта не мае ніякага значэння; *He is no philosopher.* Які з яго філосаф; *There is no telephone in our house.* У нашым доме няма тэлефона. **2.** не (*азначае забарону*); *No smoking!* Не курыць!; *No parking!* Стаянка забаронена! **3.** *infml* не (*азначае немагчымасць*); **there is no saying/telling** немагчы́ма сказа́ць; *There is no knowing what may happen.* Хто ведае, што можа здарыцца.

**no³** [nəʊ] *adv.* не, ніко́лькі не; **no longer** ужо́ не; больш не; *He is no longer in London.* У Лондане яго ўжо няма; **no more** (больш) няма́ чаго́, ніčо́га больш, ужо́/больш няма́; *I have no more to say.* Мне больш няма чаго сказаць.

**no⁴** [nəʊ] *part.* не; *No, thank you.* Не, дзякуй; *Pleasant or no, it is true.* Прыемна гэта ці не, але ж гэта праўда.

**No./no.** (*pl.* **Nos/nos**) (*пісьмовае скар. ад* **number**) ну́мар

**No. 10** (*пісьмовае скар. ад* **Number Ten Downing Street**) *infml* рэзідэ́нцыя прэм'е́р-міні́стра Вялікабрыта́ніі

**Noah** [ˈnəʊə] *n. bibl.* Ной ♦ **Noah's ark/the Ark** Но́еў каўчэ́г

**nob** [nɒb] *n. BrE, infml, dated* ва́жная пту́шка, (ва́жная) шы́шка (*пра значную, уплывовую асобу*); *The nobs live in those big houses.* Важныя шышкі жывуць у тых вялікіх дамах.

**nobble** [ˈnɒbl] *v. BrE, infml* **1.** псава́ць каня́, рабі́ць шко́ду каню́ (*перад спаборніцтвам*) **2.** падкупля́ць, дава́ць ха́бар; **nobble witnesses** падкупля́ць све́дак

**Nobel prize** [ˌnəʊbelˈpraɪz] *n.* Но́белеўская прэ́мія

**nobility** [nəʊˈbɪləti] *n.* **1.** высакаро́днасць, велікаду́шнасць **2.** (вышэ́йшае) двара́нства, знаць, арыстакра́тыя; тытулава́нае двара́нства (*у Англіі*); **the nobility** двара́нскае сасло́ўе

**noble¹** [ˈnəʊbl] *n.* **1.** арыстакра́т **2.** *hist.* дварані́н **3.** тытулава́ная асо́ба, пэр (*у Англіі*)

**noble²** [ˈnəʊbl] *adj.* **1.** высакаро́дны, велікаду́шны **2.** зна́тны, тытулава́ны **3.** вялі́касны, ве́лічны; **a noble monument** ве́лічны по́мнік **4.** высакаро́дны (*пра такія металы, як золата, серабро, плаціна*)

**nobleman** [ˈnəʊblmən] *n.* (*pl.* **-men**) **1.** арыстакра́т **2.** *hist.* дварані́н **3.** тытулава́ная асо́ба; пэр (*у Англіі*)

**noble-minded** [ˌnəʊblˈmaɪndɪd] *adj.* высакаро́дны, велікаду́шны

**noblewoman** [ˈnəʊblwʊmən] *n.* (*pl.* **-women**) **1.** арыстакра́тка **2.** *hist.* двара́нка **3.** тытулава́ная асо́ба; жо́нка пэра (*у Англіі*)

**nobody¹** [ˈnəʊbədi] *n.* нікчэ́мнасць, «пусто́е ме́сца»; *He's a mere nobody.* Ён поўная нікчэмнасць.

**nobody²** [ˈnəʊbədi] *pron.* ніхто́; **nobody else** ніхто́ і́ншы; *There's nobody here.* Тут нікога няма. ♦ **there's nobody at home** ≅ не ўсе́ до́ма; клёпкі ў галаве́ нестае́

**nocturnal** [ˈnɒktɜːnl] *adj. fml* начны́; **a nocturnal visit** начны́ візі́т; **a nocturnal bird** начна́я пту́шка

**nocturne** [ˈnɒktɜːn] *n. mus.* накцю́рн

**nod¹** [nɒd] *n.* ківо́к (*у знак згоды або прывітання*); **give a nod** ківа́ць галаво́й ♦ **give smb./smth. the nod** *infml* выка́зваць адабрэ́нне каму́-н.; дава́ць зго́ду/дазво́л на што-н.; *The director gave my plan the nod.* Дырэктар ухваліў мой план; **a nod is as good as a wink** ≅ намёк зразуме́лы; до́ўга тлума́чыць не трэ́ба; **on the nod** *BrE, infml* без фарма́льнасцей; без галасава́ння; па ўзае́мнай зго́дзе

**nod²** [nɒd] *v.* **1.** ківа́ць (*галавой*); **nod one's head** ківа́ць галаво́й; **nod a greeting** віта́цца кіўко́м (галавы́); **nod assent** сцвярджа́льна кіўну́ць галаво́й **2.** то́ркацць но́сам, драма́ць

**nod off** [ˌnɒdˈɒf] *phr.v. infml* то́ркаць но́сам, драма́ць

**noddle** [ˈnɒdl] *n. infml, dated* кацяло́к, мазгаўня́, мазгі́

**node** [nəʊd] *n.* **1.** *tech.* ву́зел, вузлавы́ пункт, ме́сца перакрыжава́ння/сты́ку (*чаго-н.*) **2.** на́раст,

патаўшчэ́нне; **a lymph node** *anat.* лімфатычны ву́зел

**Noel** [nəʊˈel] *n.* Нараджэ́нне Хрысто́ва (*у песнях, гімнах, на паштоўках*)

**noes** [nəʊz] *pl.* → **no**[1]

**noggin** [ˈnɒɡɪn] *n.* **1.** *infml* кацяло́к, мазгаўня́, мазгі́; *Think! Use your noggin!* Думай! Варушы мазгамі! **2.** невялі́кая ко́лькасць алкаго́льнага напі́тку (*звыч. чвэрць пінты: англ. = 0,142 л., амер. = 0,118 л.*)

**nohow** [ˈnəʊhaʊ] *adv. joc.* ніяк, аніяк, ніякім чы́нам

**noise** [nɔɪz] *n.* **1.** гук, шум; го́ман; гвалт; гру́кат (*звыч. непрыемны*); *Try not to make a noise when you go downstairs.* Пастарайся не шумець, як будзеш спускацца па ўсходах. **2.** *tech.* перашко́да, перашко́ды ♦ **make a noise about smth.** *infml* узнімáць шум з-за чаго́-н.; **make noises about smth.** *infml* давáць зразуме́ць што-н., намякáць на што-н.; **make encouraging noises** вы́кáзваць адабрэ́нне/падтры́мку, падбадзёрваць

**noiseless** [ˈnɔɪzləs] *adj.* бясшу́мны, бязгу́чны, ці́хі

**noisome** [ˈnɔɪsəm] *adj. fml* агі́дны, мо́ташны; смярдзю́чы, смуро́дны; **a noisome smell** смуро́д

**noisy** [ˈnɔɪzi] *adj.* шу́мны, шумлі́вы; **be noisy** шуме́ць

**nomad** [ˈnəʊmæd] *n.* **1.** намáд, качэ́ўнік **2.** вандро́ўнік, падаро́жнік

**nomadic** [nəʊˈmædɪk] *adj.* **1.** намáдны, качавы́; **nomadic tribes** качавы́я плямёны **2.** вандро́ўны, які́ не мáе ме́сца пастая́ннага жыхáрства

**no-man's-land** [ˈnəʊmænzlænd] *n.* нічы́йная зямля́; нейтрáльная зо́на/палáса

**nom de plume** [ˌnɒmdəˈpluːm] *n.* (*pl.* **noms de plume**) псеўдані́м пісьме́нніка

**nomenclature** [nəˈmenklətʃə] *n. fml* **1.** наменклату́ра; спіс, пералі́к; **geographical nomenclature** геаграфі́чная наменклату́ра **2.** тэрміналóгія

**nominal** [ˈnɒmɪnl] *adj.* **1.** наміна́льны; фікты́ўны; *His position as director is nominal.* Ён толькі намінальна лічыцца дырэктарам. **2.** мізэ́рны, нязна́чны, мізэ́рна малы́; сімвалі́чны (*пра кошт, плату, колькасць грошай*); *His grandfather got the rest of the land at a nominal price.* Астатнюю частку зямлі яго дзядуля набыў па сімвалічнай цане. **3.** *ling.* іме́нны

**nominate** [ˈnɒmɪneɪt] *v.* **1.** (**as/for**) вылучáць кандыдáта (*на выбарах, на пасаду і да т.п.*); **nominate smb. for the new president of the firm** прапано́ўваць чыю́-н. кандыдату́ру на пасáду дырэ́ктара фі́рмы; **nominate smb. as best actor** вылучáць каго́-н. на прысвае́нне ганаро́вага звáння ле́пшага акцёра **2.** **(as/to)** назначáць, прызначáць (*на пасаду*) **3.** вызначáць, прызначáць, удакладня́ць (*даты, тэрмін*)

**nomination** [ˌnɒmɪˈneɪʃn] *n.* **1.** вылучэ́нне кандыдáта (*на выбарах і для прызначэння на пасаду*) **2.** назначэ́нне, прызначэ́нне (*на пасаду*)

**nominative** [ˈnɒmɪnətɪv] *n. ling.* назо́ўны склон

**nominee** [ˌnɒmɪˈniː] *n.* кандыдáт (*на выбранне, назначэнне або прыём куды-н.*)

**noms de plume** [ˌnɒmdəˈpluːm] *pl.* → **nom de plume**

**nonagenarian** [ˌnɒnədʒəˈneəriən] *n.* чалаве́к ва ўзро́сце ад дзевяно́ста да дзевяно́ста дзявяці́ гадо́ў; дзевяностагадо́вы (чалавек)

**non-aggression** [ˌnɒnəˈɡreʃn] *n.* ненападзе́нне, ненапáд; **a non-aggression pact** пакт аб ненападзе́нні

**non-alcoholic** [ˌnɒnælkəˈhɒlɪk] *adj.* безалкаго́льны

**non-aligned** [ˌnɒnəˈlaɪnd] *adj.* недалу́чаны; нейтрáльны; **the non-aligned countries** недалу́чаныя краі́ны

**non-attendance** [ˌnɒnəˈtendəns] *n.* ненаве́дванне, ненаве́данне (*заняткаў*); нез'яўле́нне, няя́ўка (*на сход*)

**nonce-word** [ˈnɒnsˌwɜːd] *n. ling.* аказіянáльнае сло́ва; сло́ва, утво́ранае то́лькі для дáдзенага вы́падку

**nonchalant** [ˈnɒnʃələnt] *adj.* **1.** бестурбо́тны, бесклапо́тны **2.** абыя́кавы, бясстрáсны; **a nonchalant attitude to one's illness** абыя́кавае стáўленне да хваро́бы

**non-combatant** [ˌnɒnˈkɒmbətənt] *adj. mil.* нестраявы́, тылавы́; які́ не ўдзе́льнічае ў баявы́х апера́цыях

**non-commissioned officer** [ˌnɒnkəmɪʃndˈɒfɪsə] *n.* сяржáнт, у́нтэр-афіцэ́р, ваеннаслу́жачы сяржáнцкага састáву

**noncommittal** [ˌnɒnkəˈmɪtl] *adj.* ухі́лісты, уні́клівы, няпэ́ўны (*адказ*)

**nonconformist** [ˌnɒnkənˈfɔːmɪst] *n.* **1.** іншаду́мец, дысідэ́нт; дысідэ́нтка; **a political nonconformist** паліты́чны дысідэ́нт **2.** нонканфармі́ст; вераадсту́пнік, дысідэ́нт, сектáнт; нонканфармі́стка; вераадсту́пніца, дысідэ́нтка, сектáнтка

**nondescript** [ˈnɒndɪskrɪpt] *adj.* звычáйны, без асаблі́вых прыме́т, няпэ́ўнага вы́гляду; які́ нічы́м не вылучáецца; які́ складáна вы́значыць

**none¹** [nʌn] *pron.* **1.** ніхто́, нішто́, ні адзі́н/ніво́дзін; ні адна́/ніво́дная; **next to none** ама́ль нічо́га, ве́льмі ма́ла; *None of them has/have come back yet.* Ні адзін з іх яшчэ не вярнуўся; *None of this concerns me.* Усё гэта мяне не тычыцца; *It's none of your business. infml* Гэта не твая справа. **2.** ніко́лькі; нічу́ць, ані́; ні кро́плі; *She is aware, none better, that…* Ніхто лепш за яе не ведае, што...; *None of that now!* Хопіць!; *None of your impudence!* Не смей гаварыць дзёрзкасці! ♦ **none but** *lit.* то́лькі; ніхто́/нішто́ акрамя́; **none other than** не што і́ншае, як; не хто і́ншы, як; *He is **second to none**.* Яму няма роўных.

**none²** [nʌn] *adv.* **1.** зусі́м не; **none too well** не ве́льмі што, дрэ́нны; *He was none too soon.* Ён ледзь паспеў; *The salary they pay me is none too high.* Мая заработная плата зусім не вялікая. **2.** ні́як, ніко́лькі; *I am none the better for it.* Мне ад гэтага ніяк не лягчэй; *She is none the worse for her experience.* Перажыванні яе ніколькі не змянілі.

**nonentity** [nɒˈnentəti] *n.* **1.** *derog.* нікчэ́мнасць, «пусто́е ме́сца» (*пра чалавека*) **2.** не́шта неісну́ючае, вы́думка

**nonesuch** [ˈnʌnsʌtʃ] *n. dated* верх даскана́ласці, узо́р (*пра чалавека, прадмет*)

**nonetheless** [ˌnʌnðəˈles] *adv. fml* тым не менш, усё ж, нягле́дзячы на; *It was not a difficult task, but they failed nonetheless.* Заданне не было такім ужо складаным, але, нягледзячы на гэта, яны не здолелі яго выканаць.

**non-existent** [ˌnɒnɪgˈzɪstənt] *adj.* неісну́ючы

**non-flammable** [ˌnɒnˈflæməbl] *adj.* неўзгара́льны, негару́чы

**non-interference** [ˌnɒnɪntəˈfɪərens] *n.* неўмяша́нне (*у справы іншых дзяржаў*)

**non-intervention** [ˌnɒnɪntəˈvenʃn] *n.* неўмяша́нне (*у справы іншых дзяржаў*); **a non-intervention policy/a policy of non-intervention** палі́тыка неўмяша́ння

**non-iron** [ˌnɒnˈaɪən] *adj.* які́ не патрабу́е праса-ва́ння; **non-iron fabric** ткані́на, яка́я не патрабу́е прасава́ння

**non-nuclear** [ˌnɒnˈnjuːkliə] *adj.* няя́дзерны; які́ не прымяня́е я́дзерную збро́ю; **a non-nuclear country** няя́дзерная краі́на

**nonpareil** [ˌnɒnpəˈreɪl] *n. fml* верх даскана́ласці, узо́р (*пра чалавека, прадмет*)

**non-payment** [ˌnɒnˈpeɪmənt] *n.* неплаце́ж, няпла́та, нявы́плата; **non-payment of tax** неплаце́ж пада́тку

**non-profit** [ˌnɒnˈprɒfɪt] *adj.* не разлі́чаны на атрыма́нне прыбы́тку, некамерцы́йны; **a non-profit organization** грама́дская арганіза́цыя (*дабрачынная, асветніцкая і да т.п.*)

**non-profit-making** [ˌnɒnˈprɒfɪtˌmeɪkɪŋ] *BrE* = **non-profit**

**non-proliferation** [ˌnɒnprəˌlɪfəˈreɪʃən] *n.* нераспаўсю́джанне я́дзернай збро́і

**non-renewable** [ˌnɒnˈrenjuːəbl] *adj.* неаднаўля́льны; **non-renewable resources** неаднаўля́льныя рэсу́рсы

**non-resident** [ˌnɒnˈrezɪdənt] *n.* **1.** нерэзідэ́нт; іншазе́мец, які́ не пражыва́е пастая́нна ў да́дзенай краі́не; прые́зджы **2.** чалаве́к, які́ не пражыва́е ў да́дзенай гасці́ніцы; *The bar is open to non-residents.* Бар адкрыты для публікі.

**nonsense** [ˈnɒnsəns] *n.* **1.** глу́пства, лухта́, бязглу́здзіца, бяссэ́нсіца; **talk nonsense** гавары́ць абы-што́, вярзці́ глу́пства, пле́сці лухту́ **2.** абсу́рд, абсу́рднасць; **no nonsense!** даво́лі!/до́сыць глу́пства! **3.** глу́пства, дзіва́цтва; недарэ́чныя ўчы́нкі; *Children, stop that nonsense!* Дзеці, хопіць ужо дурэць!

**nonsensical** [nɒnˈsensɪkl] *adj.* недарэ́чны, бязглу́зды, абсу́рдны

**non-smoker** [ˌnɒnˈsməʊkə] *n.* **1.** некурэ́ц **2.** *BrE* ваго́н/купэ́ для некурцо́ў

**non-smoking** [ˌnɒnˈsməʊkɪŋ] *adj.* для некурцо́ў; **a non-smoking area** ме́сца для некурцо́ў (*у цягніку, кінатэатры і да т.п.*)

**non-standard** [ˌnɒnˈstændəd] *adj.* **1.** *ling.* нестанда́ртны; які́ не адпавяда́е но́рмам літарату́рнай мо́вы **2.** нестанда́ртны, некандыцы́йны

**non-stick** [ˌnɒnˈstɪk] *adj.* з антыпрыга́рным пакрыццём (*напр., тэфлонавым*); да яко́га не прыгара́е е́жа (*пра посуд*)

**non-stop¹** [ˌnɒnˈstɒp] *adj.* безупы́нны, беспераы́нны, няспы́нны; **a non-stop flight** беспаса́дачны пералёт

**non-stop²** [ˌnɒnˈstɒp] *adv.* безупы́нна, беспераы́нна, няспы́нна; *The train goes to London non-stop.* Цягнік ідзе да Лондана без прыпынкаў.

**non-union** [ˌnɒnˈjuːniən] *adj.* **1.** які́ не з'яўля́ецца чле́нам прафсаю́за **2.** які́ не ма́е прафсаю́знай арганіза́цыі або́ не прыма́е на пра́цу яе́ чле́наў (*пра завод, фірму і да т.п.*)

**noodle** [ˈnuːdl] *n.* ло́кшына; **noodle soup** суп з ло́кшынай

**noon** [nuːn] *n.* по́ўдзень, паўдня́; **at noon** апо́ўдні, апаўдні́, у по́ўдзень ♦ **morning, noon, and night** уве́сь час, з ра́ніцы да но́чы

**no one** [ˈnəʊwʌn] *pron.* ніхто́

**noose** [nuːs] *n.* **1.** пятля́ **2.** арка́н, ласо́ **3.** па́стка **4. the noose** пакара́нне сме́рцю праз паве́шанне

**nor** [nɔː] *conj.* **1.** ні; *It can't be done by you nor by me nor by anyone else.* Гэта не можаце зрабіць ні вы, ні я, ні хто-небудзь іншы; **neither...nor** ні...ні; *Neither my father nor I knew him.* Ні мой бацька, ні я не ведалі яго. **2.** такса́ма не; *I can't swim. – Nor can I.* Я не ўмею плаваць. – Я таксама не ўмею.

**Nordic** [ˈnɔːdɪk] *adj.* нарды́чны, скандына́ўскі; **Nordic countries** краі́ны Паўно́чнай Еўро́пы

**norm** [nɔːm] *n.* но́рма, станда́рт; **a deviation from the norm** адхіле́нне ад но́рмы; **social norms** пра́вілы паво́дзін у грама́дстве

**normal** [ˈnɔːml] *adj.* **1.** нарма́льны, звыча́йны **2.** псіхі́чна нарма́льны

**normalize,** *BrE* **-ise** [ˈnɔːməlaɪz] *v.* нармалізава́ць, прыво́дзіць у но́рму, упарадко́ўваць

**normally** [ˈnɔːməli] *adv.* **1.** нарма́льна **2.** звыча́йна, як пра́віла

**Norman** [ˈnɔːmən] *adj.* нарма́ндскі; **the Norman Conquest** заваява́нне Англіі нарма́намі (*1066 г.*); **Norman architecture** нарма́ндскі архітэкту́рны стыль (*англійскі варыянт раманскага стылю архітэктуры XI–XII стст.*)

**north**[1] [nɔːθ] *n.* по́ўнач; *naut.* норд; **to the north of** на по́ўнач ад

**north**[2] [nɔːθ] *adj.* паўно́чны; **a north wind** паўно́чны ве́цер, норд

**north**[3] [nɔːθ] *adv.* на по́ўнач, у паўно́чным напра́мку; *This village lies north of London.* Гэтая вёска ляжыць на поўнач ад Лондана; *They were heading north.* Яны накіроўваліся на поўнач.

**north-east** [ˌnɔːθˈiːst] *n.* паўно́чны ўсхо́д; *naut.* норд-о́ст

**north-easter** [ˌnɔːθˈiːstə] *n.* мо́цны паўно́чнаўсхо́дні ве́цер; *naut.* норд-о́ст

**northerly** [ˈnɔːðəli] *adj.* **1.** паўно́чны (*пра вецер*) **2.** паве́рнуты/накірава́ны на по́ўнач; **in a northerly direction** на по́ўнач, у паўно́чным напра́мку

**northern** [ˈnɔːðən] *adj.* паўно́чны; **the Northern hemisphere** Паўно́чнае паўша́р'е

**northerner** [ˈnɔːðənə] *n.* паўно́чнік, жыха́р по́ўначы/паўно́чнай ча́сткі краі́ны

**northern lights** [ˌnɔːðənˈlaɪts] *n.* **the northern lights** паўно́чнае ззя́нне

**northernmost** [ˈnɔːðənməʊst] *adj.* са́мы паўно́чны

**North Pole** [ˌnɔːθˈpəʊl] *n.* **the North Pole** Паўно́чны по́люс

**northward** [ˈnɔːθwəd] *adj.* паўно́чны (*пра напрамак*); які́ разме́шчаны на по́ўнач ад; які́ накірава́ны/зве́рнуты на по́ўнач; **a northward journey** падаро́жжа на по́ўнач/у паўно́чным напра́мку

**northwards** [ˈnɔːθwədz] *adv.* на по́ўнач, у паўно́чным напра́мку

**north-west** [ˌnɔːθˈwest] *n.* паўно́чны за́хад; *naut.* норд-ве́ст

**north-wester** [ˌnɔːθˈwestə] *n.* мо́цны паўно́чназахо́дні ве́цер; *naut.* норд-ве́ст

**Norwegian**[1] [nɔːˈwiːdʒn] *n.* **1.** нарве́жац; нарве́жка; **the Norwegians** нарве́жцы **2.** нарве́жская мо́ва

**Norwegian**[2] [nɔːˈwiːdʒn] *adj.* нарве́жскі

**Nos/nos** *pl.* → **No./no.**

**nose**[1] [nəʊz] *n.* **1.** нос; **blow one's nose** смарка́цца; *Stop picking your nose!* Кінь у носе калупацца! **2.** нос (*карабля, самалёта і да т. п.*) **3.** чуццё, нюх; **a dog with a good nose** саба́ка з до́брым ню́хам ♦ **have a good nose for smth.** мець до́бры нюх на што-н.; беспамылко́ва вызнача́ць/ацэ́ньваць што-н. (*пра чалавека*); **(right) under smb.'s (very) nose** *infml* пад са́мым но́сам; **have one's nose in the air/with one's nose in the air** *infml* драць/задзіра́ць нос, трыма́ць сябе́ высакаме́рна; ≅ фі́гай/кру́кам но́са не даста́ць, без фі́гі ні да но́са; **look down one's nose at smb.** *infml* глядзе́ць звысо́ку/з пага́рдай на каго́-н.; **poke one's nose into smth.** *infml* со́ваць/утыка́ць нос у што-н.; **turn one's nose up at smth.** *infml* вярну́ць нос ад чаго́-н.; **pay through the nose** заплаці́ць шалёныя гро́шы

**nose**[2] [nəʊz] *v.* **1.** ру́хацца паво́льна і асцяро́жна (*пра машыны, караблі і да т.п.*) **2.** ню́хаць, абню́хваць (*пра жывёл*) **3.** *infml* **(into)** со́ваць/утыка́ць нос у чужы́я спра́вы

**nose about/around/round** [ˌnəʊzəbˈaʊt/ˌnəʊzəˈraʊnd/ˌnəʊzˈraʊnd] *phr.v.* вынню́хваць, выве́дваць, вызнава́ць

**nose out** [ˌnəʊzˈaʊt] *phr.v. infml* праню́хаць, разве́даць

**nosebleed** [ˈnəʊzbliːd] *n.* крывацёк з но́са, насавы́ крывацёк

**nosedive** [ˈnəʊzdaɪv] *n.* **1.** пікі́раванне, піке́ (*пра самалёт*) **2.** рэ́зкае падзе́нне/зніжэ́нне (*цэн*); *Prices took a nosedive.* Цэны рэзка знізіліся.

**nosey** [ˈnəʊzi] = **nosy**

**nostalgia** [nɒˈstældʒə] *n.* настальгі́я, туга́ па радзі́ме/па міну́лым

**nostril** [ˈnɒstrəl] *n.* но́здра

**nosy** [ˈnəʊzi] *adj. infml, derog.* празме́рна ціка́ўны, праны́рлівы

**nosy parker** [ˌnəʊziˈpɑːkə] *BrE, infml, derog.* чалаве́к, які́ ўсю́ды со́вае свой нос

**not** [nɒt] *adv.* **1.** не, ні (*у спалучэнні з дапаможнымі і мадальнымі дзеясловамі*); *I don't know.* Я не ведаю; *You mustn't do that.* Ты не павінен гэта рабіць. **2.** не (*у адказах*); **probably not** напэ́ўна/ма́быць не; *Will he be there? – I fear not.* Ён там будзе? – Баюся, што не. **3.** не (*у эмфатычных канструкцыях*); **why not!** чаму́ не!; **certainly not!** кане́шне не!; **not at all!** няма́ за што! (*у адказ на падзяку*); *Not too loud, please!* Цішэй, калі ласка!; *How much did it cost? – Not a penny.* Колькі гэта каштавала? – Ні пені.

**nota bene** [ˌnəʊtɑːˈbeneɪ] *n.* нотабе́на, «звярні́ ўва́гу», «прымі́ да ве́дама» (*памета на палях дакументаў каля слоў, на якія трэба звярнуць асаблівую ўвагу, мае выгляд NB/nb*)

**notable** [ˈnəʊtəbl] *adj.* **(for)** ва́рты ўва́гі, зна́чны, ва́жны; выда́тны; **notable events** ва́жныя падзе́і; **notable artists** знакамі́тыя мастакі́; **a man notable for his wit** чалаве́к, вядо́мы сваёй дасці́пнасцю

**notary** [ˈnəʊtəri] *n.* ната́рыус

**notation** [nəʊˈteɪʃn] *n.* ната́цыя, сістэ́ма ўмо́ўных пісьмо́вых абазначэ́нняў; **musical notation** но́тны за́піс

**notch** [nɒtʃ] *n.* **1.** ступе́нь; узро́вень **2.** зару́бка, зару́біна, засе́чка (*звыч. у форме англійскай літары V*); **make/cut a notch on a stick** рабі́ць засе́чку на па́лцы

**note¹** [nəʊt] *n.* **1.** за́піс, ната́тка; **make a note of smth.** запі́сваць/занато́ўваць што-н.; **make/take notes (of a lecture)** рабі́ць ната́ткі, канспектава́ць (ле́кцыю) **2.** каро́ткае пісьмо́, запі́ска; **a note of thanks** пісьмо́ з падзя́кай; **a suicide note** перадсмяро́тная запі́ска (*самагубцы*); **an exchange of notes** абме́н (дыпламаты́чнымі) но́тамі **3.** заўва́га, камента́рый (*да слова, абзаца і да т.п.*); *See note 5, page 138.* Глядзі заўвагу 5, старонка 138. **4.** банкно́та; **a £5 note** банкно́та ў 5 фу́нтаў **5.** *mus.* но́та, тон **6.** ува́га; **worthy of note** ва́рты ўва́гі ♦ **hit/strike the right note** узя́ць пра́вільны тон; тра́піць/патра́піць у тон; крану́ць адпаве́дную струну́; **take note of smth.** звярну́ць ува́гу на што-н.; прыня́ць што-н. да ве́дама

**note²** [nəʊt] *v.* **1.** заўважа́ць, звярта́ць ува́гу; *Note how to do it.* Глядзіце, як гэта робіцца. **2.** упаміна́ць, згадваць; адзнача́ць; заўважа́ць
**note down** [ˌnəʊtˈdaʊn] *phr.v.* запі́сваць, занато́ўваць

**notebook** [ˈnəʊtbʊk] *n.* сшы́так, запісна́я кні́жка, ната́тнік

**noted** [ˈnəʊtɪd] *adj.* **(for)** славу́ты, шыракавядо́мы, знакамі́ты; **a town noted for its parks** го́рад, знакамі́ты сваі́мі па́ркамі

**notepad** [ˈnəʊtpæd] *n.* блакно́т

**notepaper** [ˈnəʊtpeɪpə] *n.* пашто́вая папе́ра; **headed notepaper** фі́рменны бланк, бланк устано́вы

**noteworthy** [ˈnəʊtwɜːði] *adj.* ва́рты ўва́гі; *There's nothing particularly noteworthy in this book.* У гэтай кнізе няма нічога асабліва цікавага.

**nothing** [ˈnʌθɪŋ] *pron.* **1.** ні́чо́га, нішто́; *I need nothing.* Мне нічога не трэба. **2.** няма́ чаго́, не́чага; *I have nothing to do.* Мне няма чаго рабіць ♦ **for nothing** бясплáтна; **not for nothing** нездарма́, не без падста́ў, не без прычы́ны; **quarrel for nothing** пасвары́цца без дай прычы́ны/з-за дро́бязі; **nothing but** то́лькі, нішто́ акрамя́/апрача́; **nothing much** нічо́га асаблі́вага; **nothing like as good** *infml* далёка/зусі́м не такі́ ўжо до́бры; **nothing of the kind/of the sort** *infml* нічо́га падо́бнага; **(there's) nothing to it** (гэ́та) зусі́м не склада́на, надзвы́чай лёгка; ≅ прасце́й па́ранай рэ́пы, прасце́й про́стага; **next to nothing** ама́ль нічо́га; **have nothing to do with** не мець ніяка́га дачыне́ння да/нічо́га агу́льнага з; **say nothing of** не гаво́рачы ўжо пра; *I can **make nothing of** it.* Я ў гэтым нічога не разумею; *He is **nothing to me any more**.* Ён для мяне больш не існуе.

**notice¹** [ˈnəʊtɪs] *n.* **1.** ува́га; **take notice of smth.** звярта́ць ува́гу на што-н., зважа́ць на што-н.; надава́ць значэ́нне чаму́-н.; **bring smth. to smb.'s notice** звярну́ць ува́гу каго́-н. на што-н.; **come to smb.'s notice** прыця́гваць (да сябе́) ува́гу каго́-н.; **escape notice** выпада́ць з-пад ува́гі; прахо́дзіць па-за ўва́гай **2.** аб'я́ва, абве́стка; **put up a notice** паве́сіць аб'я́ву; **a notice of death** каро́ткі некрало́г, жало́бная абве́стка **3.** паведамле́нне, папярэ́джанне; **until further notice** да насту́пнага паведамле́ння; **give notice** папярэ́джваць, папераджа́ць (*аб звальненні, ад'ездзе і да т.п.*) **4.** рэцэ́нзія, во́дгук ♦ **at short/at a moment's notice** у апо́шнюю хвілі́ну/апо́шні мо́мант; за́раз жа, неадкла́дна, на пе́ршае патрабава́нне

**notice²** [ˈnəʊtɪs] *v.* заўважа́ць, прымяча́ць, звярта́ць ува́гу; *Did you notice whether I turned the gas off?* Ты не заўважыла, ці выключыў я газ?

**noticeable** [ˈnəʊtɪsəbl] *adj.* **1.** прыме́тны; зна́чны **2.** ва́рты ўва́гі

**noticeboard** [ˈnəʊtɪsbɔːd] *n. BrE* до́шка аб'я́ў

**notify** [ˈnəʊtɪfaɪ] *v.* **(of) 1.** паведамля́ць, апавяшча́ць; *We notified the police of the loss.* Мы паведамілі ў паліцыю пра страту. **2.** аб'яўля́ць, апавяшча́ць, даво́дзіць да чыйго́-н. ве́дама

**notion** [ˈnəʊʃn] *n.* **1.** паня́цце, уяўле́нне; **have no notion of smth.** не мець (а)нія́кага ўяўле́ння аб чым-н. **2.** меркава́нне, по́гляд, ду́мка **3.** капры́з, дзіва́цтва, недарэ́чнае жада́нне

**notional** [ˈnəʊʃənl] *adj.* **1.** *fml* разумо́вы; абстра́ктны, адця́гнены **2.** *ling.* паняці́йны; знамяна́льны

**notorious** [nəʊˈtɔːriəs] *adj.* (**for**) су́мна вядо́мы, праславу́ты, пра яко́га хо́дзіць дрэ́нная сла́ва; **be notorious for smth.** сла́віцца чым-н. дрэ́нным/благі́м; **a notorious liar** страшэ́нны лгун, хлус, манюка

**notwithstanding**[1] [ˌnɒtwɪθˈstændɪŋ] *adv. fml* тым не менш, усё ж, адна́к

**notwithstanding**[2] [ˌnɒtwɪθˈstændɪŋ] *prep. fml* нягле́дзячы на; напераќо́р, насу́перак

**nougat** [ˈnuːgɑː] *n.* нуга́ (*кандытарскі выраб*)

**nought** [nɔːt] *n.* **1.** *BrE* нуль; **nought point one** (**0,1**) нуль цэ́лых адна́ дзяся́тая **2.** *lit.* нішто́ ♦ **bring to nought** разара́ць; зво́дзіць на нішто́; **come to nought** быць беспасляхо́вым/дарэ́мным/ма́рным, схо́дзіць на нішто́

**noughts and crosses** [ˌnɔːtsəndˈkrɒsɪz] *n. BrE* кры́жыкі і ну́лікі (*гульня*)

**noun** [naʊn] *n. ling.* назо́ўнік; **a common noun** агу́льны назо́ўнік; *Proper nouns begin with a capital letter.* Уласныя назоўнікі пішуцца з вялікай літары.

**nourish** [ˈnʌrɪʃ] *v.* **1.** кармі́ць, харчава́ць, сілкава́ць, жыві́ць **2.** *fml* жыві́ць, пе́сціць (*надзею, мару і да т.п.*); **nourish dreams of a trip abroad** пе́сціць ма́ры паехаць за мяжу́

**nourishing** [ˈnʌrɪʃɪŋ] *adj.* пажы́ўны, спажы́ўны

**nourishment** [ˈnʌrɪʃmənt] *n. fml* **1.** харчава́нне, сілкава́нне **2.** харч, е́жа

**nouveau riche** [ˌnuːvəʊˈriːʃ] *n.* нувары́ш

**nouveaux riches** [ˌnuːvəʊˈriːʃ] *pl.* → **nouveau riche**

**Nov.** (*пісьмовае скар. ад* **November**) лістапа́д

**novel**[1] [ˈnɒvl] *n.* рама́н; **a historical novel** гістары́чны рама́н; **a short novel** апо́весць, наве́ла

**novel**[2] [ˈnɒvl] *adj.* но́вы, незвыча́йны; **a novel suggestion** арыгіна́льная прапано́ва

**novelist** [ˈnɒvəlɪst] *n.* (пісьме́ннік-)раманіст

**novella** [nəˈvelə] *n.* апо́весць, наве́ла

**novelty** [ˈnɒvlti] *n.* **1.** навізна́; *The novelty has worn off.* Пачуццё навізны сцерлася. **2.** навіна́, наві́нка

**November** [nəʊˈvembə] *n.* лістапа́д; **a misty November morning** тума́нная лістапа́даўская ра́ніца

**novice** [ˈnɒvɪs] *n.* **1.** навічо́к, пачына́ючы, пачатко́вец (*у працы, прадмеце і да т.п.*) **2.** конь, які́ яшчэ́ не браў пры́за **3.** паслу́шнік; паслу́шніца (*у манастыры*)

**now** [naʊ] *adv.* **1.** за́раз, цяпе́р **2.** тады́, у той час/мо́мант (*у апавяданні*); **just now** за́раз; то́лькі што; **from now on** ад/з гэ́тага ча́су; надале́й, у дале́йшым; **up to now** да гэ́тай пары́; *He was here just now.* Ён толькі што быў тут. **3.** **:** *Now, you've broken it!* Ну вось, ты і зламаў яго! ♦ **(every) now and again/then** ча́сам, час ад ча́су; **(it's) now or never** за́раз ці ніко́лі; ***Now** she's cheerful, **now** she's sad.* Яна то вясёлая, то сумная; ***Now then**, what's the matter?* Ну, дык у чым справа?; ***Now, now** that'll do.* Ну, ну хопіць.

**nowadays** [ˈnaʊədeɪz] *adv.* у наш час, цяпе́р

**nowhere** [ˈnəʊweə] *adv.* **1.** нідзе́, ніку́ды; **nowhere else** больш нідзе́ **2.** няма́ дзе, не́дзе; няма́ куды́, не́куды; *I have nowhere to go.* Мне няма куды ісці. ♦ **get/go nowhere** нічо́га не дасягну́ць, не дабі́цца свайго́, пацярпе́ць фія́ска; **nowhere to be found** бяссле́дна зні́кнуць, як у ваду́ ка́нуць, нідзе́ няма́ (*чаго-н.*); **nowhere near** ніко́лькі, зусі́м не; *Lions are nowhere near as fast as cheetahs.* Львы бегаюць зусім не так хутка, як гепарды; *From out of nowhere he asks me to marry him!* І тут, ні з таго ні з сяго, ён прапануе мне стаць яго жонкай!

**noxious** [ˈnɒkʃəs] *n. fml* шко́дны, згу́бны; нездаро́вы; атру́тны, ядаві́ты; **noxious gases** ядаві́тыя га́зы

**nozzle** [ˈnɒzl] *n.* зды́мны накане́чнік, наса́дка

**nth** [enθ] *adj.* **1.** *math. n*-ны, э́нны, любы́; **ten to the nth power** дзе́сяць у э́ннай ступе́ні, дзе́сяць у ступе́ні *n*; **2.** *infml* э́нны, со́ты, ты́сячны; **for the nth time** не раз, като́ры раз, со́ты/ты́сячны раз; *I've read it for the nth time.* Я прачытаў гэта тысячны раз. ♦ **to the nth degree** у найвышэ́йшай ступе́ні, надзвыча́йна, да кра́йнасці

**nuance** [ˈnjuːɑːns] *n.* нюа́нс, адце́нне (*у гуках, колерах, меркаваннях і да т. п.*)

**nub** [nʌb] *n.* су́тнасць; **the nub of the problem** су́тнасць прабле́мы

**nuclear** [ˈnjuːkliə] *adj.* я́дзерны; **nuclear energy/power** я́дзерная эне́ргія; **a nuclear reactor** я́дзерны рэ́актар; **nuclear disarmament** я́дзернае раззбрае́нне

**nuclear family** [ˌnjuːkliəˈfæməli] *n.* нуклеа́рная/мала́я сям'я́; сям'я́, яка́я склада́ецца з бацько́ў і дзяце́й

**nuclear-free** [ˌnjuːkliəˈfriː] *adj.* бяз'я́дзерны; **a nuclear-free zone** бяз'я́дзерная зо́на; **a campaign for a nuclear-free world** кампа́нія за свет без я́дзернай збро́і

**nuclei** [ˈnjuːkliaɪ] *pl.* → **nucleus**

**nucleus** [ˈnjuːkliəs] *n.* (*pl.* **nuclei**) **1.** *phys.* ядро́ (*атама*) **2.** *biol.* ядро́ (*клеткі*) **3.** ядро́; цэнтр; ячэ́йка **4.** *ling.* ядро́; элеме́нт, які́ ў ме́жах скла́да або́ сло́ва атры́млівае галоўны на́ціск **5.** *ling.* ядро́ словазлучэ́ння, ска́за

**nude¹** [njuːd] *n.* **1.** аго́леная фігу́ра (*у жывапісе, скульптуры*) **2.** аго́ленае/го́лае це́ла ♦ **in the nude** галышо́м, галяко́м

**nude²** [njuːd] *adj.* аго́лены, го́лы

**nudge** [nʌdʒ] *v.* злёгку крана́ць, штурха́ць ло́кцем (*каб прыцягнуць чыю-н. увагу*); **nudge smb. into/towards (doing) smth.** падштурхо́ўваць каго́-н. да яко́га-н. дзе́яння; наво́дзіць на ду́мку

**nudism** [ˈnjuːdɪzəm] *n.* нуды́зм (*культ аголенага цела*)

**nudist** [ˈnjuːdɪst] *n.* нуды́ст; **a beach for nudists** пляж для нуды́стаў

**nudity** [ˈnjuːdəti] *n.* **1.** галізна́, аго́ленасць **2.** го́лае це́ла

**nugget** [ˈnʌɡɪt] *n.* **1.** самаро́дак (*пра каштоўны метал*); **a gold nugget** залаты́ самаро́дак **2.** крупі́нка чаго́-н. кашто́ўнага; **nuggets of information** крупі́нкі інфарма́цыі

**nuisance** [ˈnjuːsns] *n.* **1.** непрые́мнасць, пры́красць; **what a nuisance!** як шкада́!; яка́я пры́красць! **2.** надаку́члівы, ну́дны, невыно́сны чалаве́к; *Don't make a nuisance of yourself.* Не дакучай.

**nuke** [njuːk] *n. infml* я́дзерная збро́я

**null** [nʌl] *adj.* нулявы́; які́ адсу́тнічае; яко́га няма́ ♦ **null and void** *law* несапра́ўдны; які́ не ма́е зако́ннай сі́лы

**nullify** [ˈnʌlɪfaɪ] *v. fml* **1.** рабі́ць несапра́ўдным, касава́ць; ануля́ваць (*дагавор, пагадненне, загад*) **2.** зво́дзіць на нішто́/да нуля́

**numb** [nʌm] *adj.* **1.** здранцве́лы, знямелы; зацёклы; **numb with cold** адубе́лы, скарчане́лы (*ад холаду*); **be/go numb** няме́ць, дранцве́ць, зацяка́ць; дубе́ць, карчане́ць (*на холадзе*) **2.** змярцве́лы, зняме́лы, засты́лы; **numb with grief** зняме́лы ад го́ра

**number¹** [ˈnʌmbə] *n.* **1.** лік, лі́чба; **odd and even numbers** цо́тныя і няцо́тныя лі́кі **2.** ну́мар (*дома, тэлефона, часопіса, праграмы і да т.п.*); *Wrong number!* Не туды папалі! **3.** лік, ко́лькасць; **a number of** не́калькі; **a great/large number** шмат, мно́га; **quite a number of people** даво́лі мно́га наро́ду **4.** *ling.* лік; **plural number** мно́жны лік ♦ **numbers game** падтасо́ўка (статысты́чных) да́ных, ашука́нства; **have/get smb.'s number** *infml* раскусі́ць каго́-н., зразуме́ць чые́-н. наме́ры; **smb.'s number is up** *infml* ≅ каму́-н. кане́ц/канцы́/хана́; чыя́-н. пе́сенька спе́та

**number²** [ˈnʌmbə] *v.* **1.** нумарава́ць; **number pages** нумарава́ць старо́нкі; *His days are numbered.* Яго дні злічаны. **2.** налі́чваць; налі́чвацца; *His class numbers 24.* У яго класе 24 вучні. **3.** *fml* прылічáць, прылі́чваць, лічы́ць; *He is numbered among the best modern writers.* Яго прылічваюць да лепшых сучасных пісьменнікаў.

**number plate** [ˈnʌmbəpleɪt] *n. BrE* нумарны́ знак (*машыны*)

**Number Ten** [ˌnʌmbəˈten] *n.* рэзідэ́нцыя прэм'е́р-міні́стра Вялікабрыта́ніі

**numeracy** [ˈnjuːmərəsi] *n.* ве́данне арыфме́тыкі, уме́нне лічы́ць

**numeral** [ˈnjuːmərəl] *n.* **1.** лі́чба; **Arabic/Roman numerals** ара́бскія/ры́мскія лі́чбы **2.** *ling.* лічэ́бнік

**numerator** [ˈnjuːməreɪtə] *n. math.* лі́чнік (дро́бу); *3 is the numerator and 5 the denominator in 3/5.* У дробе 3/5 лічнік 3, а назоўнік 5.

**numerical** [njuːˈmerɪkl] *adj.* лі́чбавы; лі́кавы; ко́лькасны; **numerical data** лі́чбавыя да́ныя; **numerical superiority** ко́лькасная перава́га; **in numerical order** па пара́дку нумаро́ў; **in ascending/descending numerical order** па ўзраста́нні/убыва́нні (нумаро́ў)

**numerous** [ˈnjuːmərəs] *adj. fml* шматлі́кі; **in numerous cases** у мно́гіх вы́падках

**numismatics** [ˌnjuːmɪzˈmætɪks] *n.* нумізма́тыка

**numismatist** [njuːˈmɪzmətɪst] *n.* нумізма́т; нумізма́тка

**nun** [nʌn] *n.* мана́шка

**nuncio** [ˈnʌnsiəʊ] *n.* (*pl.* **nuncios**) па́пскі ну́нцый

**nuncios** [ˈnʌnsiəʊz] *pl.* → **nuncio**

**nunnery** [ˈnʌnəri] *n. dated* жано́чы манасты́р

**nuptial** [ˈnʌpʃl] *adj. fml* шлю́бны, вясе́льны

**nurse¹** [nɜːs] *n.* **1.** саніта́рка; сядзе́лка; **a registered nurse** медыцы́нская сястра́; **a male nurse** саніта́р **2.** *dated* ня́нька, ня́ня

**nurse²** [nɜːs] *v.* **1.** дагляда́ць, выхо́джваць (*хворага*); **nurse back to health** вы́хадзіць (*хворага*) **2.** лячы́ць, лячы́цца; *She is at home, nursing a cold.* Яна сядзіць дома і лечыцца ад прастуды. **3.** зато́йваць, пе́сціць (*пра пачуцці*); **nurse resentment/wrath** зато́йваць крыўду/злосць **4.** дагляда́ць; пе́сціць; гадава́ць, выро́шчваць (*маладыя парасткі, саджанцы і да т.п.*) **5.** трыма́ць у абды́мках, мо́цна прыціска́ць да грудзе́й **6.** кармі́ць грудзьмі́ (*пра маці*) **7.** кармі́цца малако́м ма́ці, ссаць гру́дзі (ма́ці)

**nursery** [ˈnɜːsəri] *n.* **1.** (дзіця́чыя) я́слі, дзіця́чы садо́к **2.** гадава́льнік, раса́днік (*для вырошчвання расады, дрэў і да т.п.*) **3.** *dated* дзіця́чы пако́й

**nursery rhyme** [ˈnɜːsəriraɪm] *n.* дзіця́чы ве́ршык, дзіця́чая пе́сенька

**nursery school** [ˈnɜːsərisku:l] *n. BrE* дзіця́чы садо́к (*першая ступень пачатковай школы для дзяцей ад 2 да 5 гадоў*)

**nursing home** [ˈnɜːsɪŋhəʊm] *n.* прыва́тная лячэ́бніца/бальні́ца; прыва́тны дом састарэ́лых

**nurture**[1] [ˈnɜːtʃə] *n. fml* гадава́нне, выхава́нне

**nurture**[2] [ˈnɜːtʃə] *v. fml* **1.** гадава́ць, выхо́ўваць, выро́шчваць **2.** пе́сціць (*надзею*), выно́шваць (*план*)

**NUS** [ˌenjuːˈes] (*скар. ад* **National Union of Students**) Нацыяна́льны саю́з студэ́нтаў (*у Вялікабрытаніі*)

**NUT** [ˌenjuːˈtiː] (*скар. ад* **National Union of Teachers**) Нацыяна́льны саю́з наста́ўнікаў (*у Вялікабрытаніі*)

**nut** [nʌt] *n.* **1.** арэ́х **2.** га́йка **3.** *infml* галава́, кацяло́к, мазгаўня́ ♦ **a hard/tough nut** *infml* мо́цны/цвёрды арэ́шак (*пра складаную сітуацыю; пра чалавека, з якім цяжка справіцца*); **a hard/tough nut to crack** *infml* (арэ́х) не па зуба́х; незгаво́рлівы, сто́йкі ў перакана́ннях чалаве́к; *It's a hard nut to crack. infml* Гэта склада́ная праблéма; **the nuts and bolts (of smth.)** *infml* асно́ўныя элеме́нты, гало́ўныя кампане́нты (чаго́-н.); асно́вы, азы́ (чаго́-н.); *You must be* ***off your nut!*** *infml* Ты, мабыць, з глузду з'ехаў!

**nutcracker** [ˈnʌtkrækə] *n. звыч. pl.* шчыпцы́ для арэ́хаў

**nutmeg** [ˈnʌtmeg] *n.* муска́тны арэ́х; муска́т

**nutrient** [ˈnjuːtriənt] *n. fml* пажы́ўнае/спажы́ўнае рэ́чыва

**nutrition** [njuːˈtrɪʃn] *n.* харчава́нне; **the science of nutrition** наву́ка аб харчава́нні, дыетэ́тыка

**nutritious** [njuːˈtrɪʃəs] *adj.* пажы́ўны, спажы́ўны

**nuts** [nʌts] *adj. infml* **1.** дурнава́ты, ненарма́льны, крану́ты, звар'яцéлы; *I thought he was nuts.* Я падумала, што ён звар'яцеў. **2.** (**about/on/over**) апанта́ны; які́ страшэ́нна/шалёна/да вар'я́цтва захапля́ецца (*чым-н.*); які́ не па́мятае сябе́/тра́ціць ро́зум ад захаплéння; *He's nuts about cars.* Ён да вар'яцтва захапляецца машынамі.

**nutshell** [ˈnʌtʃel] *n.* арэ́хавая шкарлу́піна; **in a nutshell** ко́ратка, у двух сло́вах ♦ **to put it in a nutshell** карацéй ка́жучы

**nutty** [ˈnʌti] *adj.* **1.** з пры́смакам арэ́ха **2.** *infml* дурнава́ты, ненарма́льны, крану́ты

**nuzzle** [ˈnʌzl] *v.* цéрціся, крана́ць, то́ркаць но́сам (*звыч. пра жывёл*)

**NW** (*пісьмовае скар. ад* **north-west**) паўно́чны за́хад; *naut.* норд-вéст

**NY** (*пісьмовае скар. ад* **New York**) Нью-Ёрк

**nylon** [ˈnaɪlɒn] *n.* нейло́н

**nymph** [nɪmf] *n.* **1.** ні́мфа **2.** *biol.* ні́мфа, лічы́нка (*насякомых*)

**nymphomaniac** [ˌnɪmfəˈmeɪniæk] *n.* німфама́нка

## Oo

**O, o**[1] [əʊ] *n. 15-я літара англійскага алфавіта*

**O, o**[2] [əʊ] *n. infml* нуль (*у нумарах тэлефонаў, абазначэннях часу, дат і да т.п.*)

**oaf** [əʊf] *n.* ду́рань, разява́ка, ёлупень, астало́п, бо́ўдзіла (*асабліва пра мужчыну ці хлопца*)

**oak** [əʊk] *n.* **1.** дуб **2.** драўні́на ду́бу; **made of oak** дубо́вы, зро́блены з ду́бу

**oakum** [ˈəʊkəm] *n.* па́кулле (*валакно з парассуканых вяровак*)

**OAP** [ˌəʊeɪˈpiː] *BrE* (*скар. ад* **old age pensioner**) пенсіянéр; пенсіянéрка

**oar** [ɔː] *n.* вясло́ ♦ **put/stick your oar in** *BrE, infml* умéшвацца (*у чужыя справы, размовы і да т.п.*); со́ваць/утыка́ць нос не ў сваю́ спра́ву; **rest on one's oars** спачыва́ць на ла́ўрах, задавальня́цца дася́гнутым

**oarsman** [ˈɔːzmən] *n.* (*pl.* **-men**) вясля́р

**oases** [əʊˈeɪsiːz] *pl.* → **oasis**

**oasis** [əʊˈeɪsɪs] *n.* (*pl.* **oases**) **1.** аа́зіс **2.** аа́зіс, пры́ста́нішча, прыéмнае выключэ́нне (*на агульным шэрым фоне*)

**oath** [əʊθ] *n.* (*pl.* **oaths**) **1.** прыся́га, кля́тва; **the Hippocratic oath** кля́тва Гіпакра́та; **a solemn oath** урачы́стая кля́тва; **an oath of allegiance** прыся́га на ве́рнасць; **take/swear an oath** дава́ць кля́тву/прыся́гу, прысяга́ць; **break an oath** паруша́ць кля́тву **2.** *dated* праклён, ла́янка ♦ **(be) on/under oath** *law* (быць) пад прыся́гай

**oaths** [əʊðz] *pl.* → **oath**

**oatmeal** [ˈəʊtmiːl] *n.* **1.** талакно́, аўся́ная мука́; аўся́ныя шматкі́ **2.** *AmE* аўся́нка, аўся́ная ка́ша

**oats** [əʊts] *n. pl.* авёс, аўся́ныя кру́пы; **rolled oats** аўся́ныя шматкі́, геркулéс ♦ **be off one's oats** *BrE, infml* не мець апеты́ту, стра́ціць апеты́т; **sow one's wild oats** аддава́ць дані́ну захаплéнням маладо́сці; вéсці бу́йнае, разгу́льнае жыццё; пасталéць

**obedience** [əʊˈbiːdiəns] *n.* паслухмя́насць, пако́ра, пако́рнасць, пако́рлівасць, ціхмя́насць; **blind/complete/total/unquestioning obedience**

сляпо́е/по́ўнае/абсалю́тнае/безумо́ўнае/беспярэ́чнае падпара́дкаванне; **in obedience to the law** у адпаве́днасці з зако́нам, адпаве́дна зако́ну

**obedient** [əʊˈbiːdiənt] *adj.* **(to)** паслухмя́ны, пако́рны, пако́рлівы, ціхмя́ны ♦ **your obedient servant** *dated* ваш пако́рны слуга́ (*на заканчэнне афіцыйнага ліста*)

**obeisance** [əʊˈbeɪsns] *n. fml* **1.** паша́на, пава́га, пачці́васць; **to pay obeisance to smb.** праяўля́ць пачці́васць да каго́-н., выка́зваць пава́гу/паша́ну да каго́-н. **2.** паклóн, рэвера́нс; **make an obeisance** (пачці́ва) паклані́цца

**obelisk** [ˈɒbəlɪsk] *n.* абелі́ск

**obese** [əʊˈbiːs] *adj. fml* (ве́льмі) по́ўны, атлусце́лы, які́ паку́туе на атлусце́нне (*пра чалавека*)

**obey** [əˈbeɪ] *v.* слу́хацца; слу́хаць, падпарадко́ўвацца; **obey the law** падпарадко́ўвацца зако́ну; **obey an order** падпарадко́ўвацца зага́ду, слу́хацца зага́ду, выќонваць распараджэ́нне; **obey rules** прытры́млівацца пра́віл; **obey one's teachers** слу́хацца наста́ўнікаў; **obey without question** слу́хацца без пярэ́чання

**obituary** [əˈbɪtʃuəri] *n.* некрало́г

**object¹** [ˈɒbdʒɪkt] *n.* **1.** прадме́т, аб'е́кт; рэч; **a foreign object** *fml* іншаро́днае це́ла; **an unidentified flying object** неапазна́ны лята́льны аб'е́кт, НЛА; **an object of pity/curiosity/desire** аб'е́кт спачува́ння/зацікаўленасці/жада́ння; **an object of ridicule** прадме́т насме́шак; пасме́шышча **2.** мэ́та, наме́р; **one's sole object in life** мэ́та ўсяго́ жыцця́ каго́-н. **3.** *ling.* дапаўне́нне ♦ **expense/cost is no object** кошт/цана́ не ма́е значэ́ння; выда́ткі не ігра́юць ро́лі

**object²** [əbˈdʒekt] *v.* **(to)** пярэ́чыць, пратэстава́ць, выка́зваць нязго́ду; *I object.* Я супраць; *I must strongly object to this remark.* Я рашуча не згодны з гэтай заўвагай.

**objectification** [əbˌdʒektɪfɪˈkeɪʃn] *n. fml* аб'екты-ва́цыя; арэ́чаўленне; апрадме́чванне

**objection** [əbˈdʒekʃn] *n.* пярэ́чанне, пратэ́ст, нязго́да; **raise an objection to smth.** выка́зваць нязго́ду з чым-н.; **have no objection to smth.** быць не су́праць чаго́-н., быць зго́дным з чым-н.

**objectionable** [əbˈdʒekʃənəbl] *adj. fml* **1.** які́ выклі́кае пярэ́чанні/нездавальне́нне/пратэ́ст; **objectionable remarks** абра́злівыя/знява́жлівыя заўва́гі **2.** непрые́мны; **an objectionable smell** непрые́мны пах

**objective¹** [əbˈdʒektɪv] *n.* мэ́та, зада́ча; імкне́нне; **the main/primary/principal objective** асно́ўная/гало́ўная мэ́та; **achieve/meet one's objective** дасяга́ць мэ́ты, выко́нваць зада́чу

**objective²** [əbˈdʒektɪv] *adj.* **1.** аб'екты́ўны, рэча́існы; матэрыя́льны; **an objective fact** аб'екты́ўны факт; **objective reality** *philos.* аб'екты́ўная рэча́існасць/рэа́льнасць **2.** аб'екты́ўны, непрадузя́ты, бесстаро́нні; **objective criteria** аб'екты́ўныя крытэ́рыі; **the objective case** *ling.* аб'е́ктны/ускосны склон

**object lesson** [ˈɒbdʒɪktlesn] *n.* нагля́дны до́каз, нагля́дны пры́клад; нагля́дная ілюстра́цыя

**obligation** [ˌɒblɪˈgeɪʃn] *n.* абавя́зак; доўг; абавяза́цельства; **be under an obligation to smb.** быць абавя́заным каму́-н.; быць у даўгу́ пе́рад кім-н.; *You are under no obligation to reply.* Вы не абавязаны даваць адказ.

**obligatory** [əˈblɪgətri] *adj. fml* абавязко́вы; *Lectures are obligatory for all students.* Наведванне лекцый абавязковае для ўсіх студэнтаў.

**oblige** [əˈblaɪdʒ] *v.* **1.** абавя́зваць; *You are not obliged to do it.* Вы не абавязаны гэта рабіць. **2.** рабі́ць ла́ску/паслу́гу; *If you need any help, I'd be happy to oblige.* Калі патрэбна будзе якая дапамога, заўсёды буду рады вам дапамагчы; *I'm much obliged to you.* Я вам вельмі ўдзячны.

**obliging** [əˈblaɪdʒɪŋ] *adj.* мі́лы, прыя́зны, паслу́жлівы

**oblique** [əˈbliːk] *adj.* **1.** ускосны, не непасрэ́дны; **oblique reference (to smth.)** ускосная спасы́лка (на што-н.); **oblique hints** цьмя́ныя/двухсэ́нсавыя намёкі **2.** ко́сы, нахі́лены; **an oblique angle** ко́сы ву́гал **3.** *ling.* ускосны; **oblique moods** ускосныя лады́

**obliterate** [əˈblɪtəreɪt] *v.* руйнава́ць; знішча́ць; сціра́ць; **obliterate from the memory** вы́кінуць/вы́красліць з па́мяці; *The town was completely obliterated.* Горад быў сцёрты з твару зямлі.

**oblivion** [əˈblɪviən] *n.* забыццё (*у розных знач.*); **consign smth. to oblivion** аддава́ць што-н. забыццю́, забыва́ць што-н.; **drink oneself into oblivion** напіва́цца да непрыто́мнасці/бяспа́мяцтва

**oblivious** [əˈblɪviəs] *adj.* **(to/of)** які́ не заўважа́е (*што-н.*); які́ не звярта́е ўва́гі/не зважа́е (*на што-н.*); які́ не па́мятае; *She was quite oblivious of what was going on.* Яна не ўсведамляла, што адбываецца навокал.

**oblong** [ˈɒblɒŋ] *adj.* **1.** прамавуго́льны; **an oblong frame** ра́мка прамавуго́льнай фо́рмы **2.** *AmE* прадаўгава́ты, падо́ўжаны, вы́цягнуты

**obnoxious** [əbˈnɒkʃəs] *adj.* абра́злівы, знява́жлівы; гане́бны; агі́дны; **obnoxious behaviour** абура́льныя паво́дзіны; **obnoxious odours** агі́дныя па́хі; смуро́д

**oboe** [ˈəʊbəʊ] *n. mus.* габо́й

**obscene** [əbˈsiːn] *adj.* непрысто́йны, бры́дкі, паха́бны; бессаро́мны (*пра думкі, кнігі і да т.п.*); **obscene words** непрысто́йныя/бры́дкія/нецэнзу́рныя сло́вы, ла́янка

**obscenity** [əbˈsenəti] *n.* **1.** непрысто́йнасць, бессаро́мнасць **2.** *звыч. pl.* ла́янка, абра́злівыя сло́вы

**obscure[1]** [əbˈskjʊə] *adj.* **1.** малавядо́мы; **an obscure Italian writer** малавядо́мы італья́нскі пісьме́ннік **2.** незразуме́лы, ня́сны, невыра́зны, цьмя́ны; **an obscure feeling** ня́снае адчува́нне; **for some obscure reason** па незразуме́лай прычы́не; **an obscure vowel** *ling.* мо́цна рэдукава́ны (гук), нейтра́льны гало́сны (гук)

**obscure[2]** [əbˈskjʊə] *v.* **1.** закрыва́ць, засланя́ць, загаро́джваць; перашкаджа́ць (*бачыць, чуць, разумець што-н.*); *The moon was obscured by clouds.* Хмары закрывалі месяц. **2.** заблы́тваць

**obscurity** [əbˈskjʊərəti] *n.* **1.** невядо́масць; **live in obscurity** жыць у невядо́масці **2.** ня́снасць, незразуме́ласць **3.** *lit.* цемната́, це́мра

**obsequious** [əbˈsiːkwiəs] *adj. fml, derog.* лislі́вы, уго́длівы, рабале́пны; **give an obsequious smile** ліслі́ва ўсміхну́цца

**observable** [əbˈzɜːvəbl] *adj.* прыме́тны; ба́чны, агля́дны; **observable effects** прыме́тныя/відаво́чныя вы́нікі

**observance** [əbˈzɜːvəns] *n.* **1.** прытры́мліванне, выкана́нне (*законаў, правілаў, звычаяў і да т.п.*) **2.** *звыч. pl.* абра́д, звы́чай, рытуа́л; **ritual observances** рытуа́льныя абра́ды

**observant** [əbˈzɜːvənt] *adj.* **1.** наглядá́льны, назіра́льны, ува́жлівы **2.** *fml* які́ прытры́мліваецца (рэлігі́йных) трады́цый, звы́чаяў

**observation** [ˌɒbzəˈveɪʃn] *n.* **1.** назіра́нне, вывучэ́нне; **an observation tower** назіра́льная вы́шка; **under observation** пад назіра́ннем; **escape observation** застава́цца незаўва́жаным, прахо́дзіць па-за назіра́ннем **2. (on/about)** заўва́га, выка́званне; **make an observation on smth.** рабі́ць заўва́гу нако́нт чаго́-н., заўважа́ць што-н. **3.** назіра́льнасць, нагляда́льнасць

**observatory** [əbˈzɜːvətri] *n.* абсервато́рыя

**observe** [əbˈzɜːv] *v. fml* **1.** нагляда́ць, назіра́ць, сачы́ць; заўважа́ць; **observe the behaviour of babies** назіра́ць за паво́дзінамі немаўля́т **2.** рабі́ць заўва́гу, заўважа́ць, вы́казвацца **3.** прытры́млівацца, выко́нваць (*пра традыцыі, звычаі, законы*) **4.** святкава́ць, адзнача́ць; **observe birthdays** адзнача́ць дні нараджэ́ння

**observer** [əbˈzɜːvə] *n.* нагляда́льнік, назіра́льнік

**obsess** [əbˈses] *v.* завало́дваць ро́зумам; прасле́даваць, му́чыць (*пра ідэю, страх і да т.п.*); *This thought obsessed him.* Гэтая думка завалодала ім; *He is obsessed by a feeling of guilt.* Яго мучыць пачуццё віны.

**obsession** [əbˈseʃn] *n.* **(with) 1.** неадчэ́пная/назо́йлівая ду́мка **2.** апанта́насць

**obsessive** [əbˈsesɪv] *adj.* неадчэ́пны, назо́йлівы, усёпаглына́льны (*пра думкі, ідэі, жаданні і да т.п.*)

**obsolescence** [ˌɒbsəˈlesns] *n. fml* старэ́нне, знос (*абсталявання*); **planned/built-in obsolescence** запланава́ны мара́льны знос (*абсталявання*)

**obsolete** [ˈɒbsəliːt] *adj.* устарэ́лы, састарэ́лы, які́ больш не ўжыва́ецца; **an obsolete word** устарэ́лае сло́ва; **become obsolete** выхо́дзіць з ужы́тку/ужыва́ння

**obstacle** [ˈɒbstəkl] *n.* перашко́да; **overcome all the obstacles** пераадо́льваць усе́ перашко́ды; **put obstacles in smb.'s way** рабі́ць/ствара́ць перашко́ды каму́-н.

**obstacle course** [ˈɒbstəklkɔːs] *n.* паласа́ перашко́д

**obstetrician** [ˌɒbstəˈtrɪʃn] *n.* акушэ́р

**obstetrics** [əbˈstetrɪks] *n.* акушэ́рства

**obstinacy** [ˈɒbstɪnəsi] *n.* упа́ртасць; незгаво́рлівасць

**obstinate** [ˈɒbstɪnət] *adj.* **1.** упа́рты; незгаво́рлівы; які́ не прыслухо́ўваецца да до́казаў **2.** які́ склада́на кантралява́ць; ад яко́га ця́жка пазбá́віцца; **an obstinate stain** пля́ма, яку́ю склада́на вы́весці

**obstruct** [əbˈstrʌkt] *v.* **1.** перагаро́джваць, загаро́джваць; ствара́ць перашко́ды; **obstruct the road** загаро́джваць даро́гу; заступа́ць даро́гу; **obstruct the light** засланя́ць святло́; **obstruct the traffic** заміна́ць ву́лічнаму ру́ху **2.** перашкаджа́ць, заміна́ць; абцяжа́рваць, ускладня́ць; **obstruct a plan** перашкаджа́ць выкана́нню пла́на

**obstruction** [əbˈstrʌkʃn] *n.* **1.** перашко́да, замі́нка **2.** загаро́да, загрува́шчанне; перашко́да; *The car was parked on the pavement, causing an obstruction.* Машыну прыпаркавалі на тратуары, з-за чаго ўтварыўся затор. **3.** *med.* непрахо́днасць; закупо́рка; запо́р; **an intestinal obstruction** кішэ́чная непрахо́днасць, кішэ́чны запо́р

**obstructionism** [əbˈstrʌkʃənɪzəm] *n. fml* абструкцыяні́зм

**obstructive** [əbˈstrʌktɪv] *adj.* які́ перашкаджа́е, замiна́е

**obtain** [əbˈteɪn] *v. fml* **1.** атры́млiваць, дастава́ць, набыва́ць; **obtain permission** атры́млiваць дазво́л **2.** iснава́ць, сустрака́цца, быць распаўсю́джаным

**obtainable** [əbˈteɪnəbl] *adj.* дася́жны, дасяга́льны, дасту́пны

**obtrusive** [əbˈtruːsɪv] *adj.* назо́йлiвы, (на)даку́члiвы, неадчэ́пны; бесцырымо́нны; які́ кі́даецца ў во́чы

**obtuse** [əbˈtjuːs] *adj.* **1.** *fml* недалёкi, абмежава́ны, невялі́кага ро́зуму **2.** тупы́, тупавуго́льны; **an obtuse angle** тупы́ ву́гал

**obverse** [ˈɒbvɜːs] *n. звыч.* **the obverse 1.** *fml* процiле́гласць, супрацьле́гласць **2.** *tech.* аве́рс; пра́вы/гало́ўны бок (*медаля, манеты*)

**obviate** [ˈɒbvieɪt] *v. fml* пазбяга́ць, унiка́ць (*чаго-н.*), ухiля́цца (*ад чаго-н.*); устараня́ць, лiквiдава́ць (*што-н.*); **obviate danger** пазбяга́ць небяспе́кi; **obviate the need** пазбаўля́ць (ад) неабхо́днасцi

**obvious** [ˈɒbviəs] *adj.* **1.** я́ўны, вiдаво́чны; прыме́тны, прыкме́тны; **an obvious advantage** я́ўная перава́га **2.** я́сны, зразуме́лы; **for an obvious reason** па ца́лкам зразуме́лай прычы́не; *The obvious thing to do is to write her a letter.* Зразумела, трэба напiсаць ёй пiсьмо. **3.** бана́льны, трывiя́льны

**obviously** [ˈɒbviəsli] *adv.* вiдаво́чна, я́ўна; зразуме́ла, безумо́ўна; *They were obviously drunk.* Яны былi яўна п'яныя; *Boys are obviously going to need more help.* Хлопчыкам, зразумела, спатрэбiцца дадатковая дапамога.

**occasion** [əˈkeɪʒn] *n.* **1.** вы́падак; **on the occasion of** з наго́ды, з прычы́ны, з вы́падку; **on occasion** пры вы́падку, пры пэ́ўных абста́вiнах; калі́-нiкалі́, ча́сам **2.** (ва́жная) падзе́я; **mark an occasion** адзнача́ць/святкава́ць яку́ю-н. падзе́ю; *It was quite an occasion.* Гэта была сапраўдная падзея; *Today is a special occasion.* Сёння адметны дзень. **3.** магчы́масць, зру́чны вы́падак; **if the occasion arises** калі́ тра́пiцца/бу́дзе магчы́масць **4.** *fml* прычы́на, падста́ва; **if the occasion arises** калі́ ўзні́кне така́я неабхо́днасць

**occasional** [əˈkeɪʒənl] *adj.* **1.** выпадко́вы, рэ́дкi, нерэгуля́рны; *There will be occasional thunderstorms.* Магчымы навальнiцы; *She pays us an occasional visit.* Яна зрэдку нас наведвае. **2.** *fml* прымеркава́ны да яко́й-н. падзе́i/наго́ды (*аб прамове, лiтаратурным цi музычным творы i да т.п.*)

**Occident** [ˈɒksɪdənt] *n.* **the Occident** *fml* За́хад, краі́ны За́хаду

**occult** [əˈkʌlt] *adj.* аку́льтны, таямнí́чы, патае́мны, звышнатура́льны; **occult powers** звышнатура́льныя сí́лы

**occupant** [ˈɒkjəpənt] *n. fml* жыле́ц, жыха́р; аренда́тар; жылі́ца, жыха́рка; арэнда́тарка

**occupation** [ˌɒkjuˈpeɪʃn] *n.* **1.** заня́так, род/хара́ктар заня́ткаў, прафе́сiя; *What's your occupation?* Кiм вы працуеце?; *He is an engineer by occupation.* Ён iнжынер па прафесii. **2.** заня́так, спра́ва; правядзе́нне ча́су, ба́ўленне ча́су **3.** акупа́цыя; **occupation forces** акупацы́йныя во́йскi **4.** улада́нне, вало́данне, карыста́нне, арэ́нда

**occupational** [ˌɒkjuˈpeɪʃənl] *adj.* прафесі́йны; **an occupational disease** прафесі́йнае захво́рванне; **an occupational risk/hazard** прафесі́йная ры́зыка; ры́зыка, звяза́ная з хара́ктарам пра́цы; **occupational therapy** працатэрапі́я

**occupier** [ˈɒkjupaɪə] *n.* **1.** *fml* жыле́ц; арэнда́тар, часо́вы ўлада́льнiк/ула́снiк; жылі́ца; арэнда́тарка, часо́вая ўлада́льнiца/ула́снiца **2.** *звыч. pl.* акупа́нт, захо́пнiк

**occupy** [ˈɒkjupaɪ] *v.* **1.** займа́ць, запаўня́ць (*месца, прастору, час*); **occupy a flat/seat/post** займа́ць кватэ́ру/ме́сца/пост; *University occupies all my time.* Унiверсiтэт аднiмае ў мяне ўвесь час. **2.** займа́цца (*чым-н.*); удзяля́ць час (*чаму-н.*); **occupy oneself (in doing smth./with smth.)** займа́цца (чым-н.); *The work occupies his whole attention.* Гэтая праца захапляе яго цалкам. **3.** акупава́ць, акупі́раваць; **occupy a city** акупава́ць, захо́плiваць го́рад **4.** займа́ць (*пасаду, пост*)

**occur** [əˈkɜː] *v.* **1.** *fml* здара́цца, адбыва́цца **2.** сустрака́цца, трапля́цца; iснава́ць; *This plant occurs throughout Europe.* Гэтая расліна сустракаецца ўсюды ў Еўропе. **3. (to)** прыхо́дзiць у галаву́; *It occurred to me that...* Мне прыйшло ў галаву, што...; *It didn't occur to him to ask for help.* Ён не здагадаўся папрасiць дапамогi.

**occurrence** [əˈkʌrəns] *n.* здарэ́нне, вы́падак; з'я́ва; *It's a common enough occurrence.* Гэта звычайная з'ява.

**ocean** [ˈəʊʃn] *n.* акiя́н; **the ocean bed** дно акiя́на; **the Pacific Ocean** Цí́хi акiя́н ♦ **oceans of smth./an ocean of smth.** *infml* вялі́кая ко́лькасць, незлiчо́нае мно́ства, бе́зліч чаго́-н.; **an ocean of tears** мо́ра слёз; **a drop in the ocean** кро́пля ў мо́ры

**ocean-going** [ˈəʊʃnɡəʊɪŋ] *adj.* акія́нскі (*пра карабель, параход і да т. п.*)

**oceanic** [ˌəʊʃiˈænɪk] *adj.* акія́нскі, акіяні́чны; **oceanic birds** марскі́я пту́шкі; **an oceanic current** акіяні́чная плынь

**oceanography** [ˌəʊʃəˈnɒɡrəfi] *n.* акіянагра́фія

**ochre** [ˈəʊkə] *n.* **1.** во́хра (*прыродная мінеральная фарба*) **2.** чырванава́та-жо́ўты ко́лер

**o'clock** [əˈklɒk] *adv.* **:** *ужываецца з лічбамі ад 1 да 12 пры абазначэнні часу*; **at one o'clock** у гадзі́ну, а пе́ршай гадзі́не; *It is 5 o'clock.* Зараз пяць гадзін.

**OCR** (*пісьмовае скар. ад* **optical character recognition**) *comput.* апты́чнае распазнава́нне сі́мвалаў

**Oct.** (*пісьмовае скар. ад* **October**) кастры́чнік

**octagonal** [ɒkˈtæɡənl] *adj.* васьмівуго́льны; **an octagonal coin** васьмівуго́льная мане́та

**octane** [ˈɒkteɪn] *n. chem.* акта́н; **high-octane fuel** высокаакта́навае па́ліва, па́ліва з высо́кім акта́навым лі́кам

**octave** [ˈɒktɪv] *n. mus.* акта́ва

**octet** [ɒkˈtet] *n. mus.* акто́т

**October** [ɒkˈtəʊbə] *n.* кастры́чнік; **in October** у кастры́чніку

**octogenarian** [ˌɒktədʒəˈneəriən] *n.* чалаве́к, яко́му ўжо за во́семдзесят (*паміж 80 і 89 гадамі*); васьмідзесяцігадо́вы (чалаве́к)

**octopus** [ˈɒktəpəs] *n.* (*pl.* **octopuses**) васьміно́г, спрут

**ocular** [ˈɒkjələ] *adj.* **1.** *med.* во́чны; **ocular diseases** во́чныя хваро́бы **2.** *fml* нагля́дны; ба́чны; візуа́льны; **ocular proof** нагля́дны/пераканá́ўчы до́каз

**oculist** [ˈɒkjəlɪst] *n. dated* акулі́ст; акулі́стка

**OD** [ˌəʊˈdiː] (*скар. ад* **overdose**) *infml* перадазіро́ўка, смяро́тная до́за нарко́тыку

**odd** [ɒd] *adj.* **1.** дзі́ўны, незвыча́йны, эксцэнтры́чны; *Mark had always been odd, but not to this extent…* Марк заўсёды быў дзіваком, але ж не да такой ступені...; *It is very odd.* Гэта вельмі дзіўна. **2.** выпадко́вы, нерэгуля́рны; **the odd mistake** выпадко́вая памы́лка; **odd jobs** выпадко́вая пра́ца, выпадко́выя даручэ́нні **3.** няпа́рны; **an odd glove** няпа́рная пальча́тка; *I was wearing odd socks.* Я быў у розных шкарпэтках. **4.** няцо́тны; **odd numbers** няцо́тныя лі́чбы **5.** крыху́ бо́льшы; дадатко́вы; **three hundred odd** тры́ста з лі́шкам/з лі́шнім; *She is 60 odd.* Ёй за шэсцьдзясят.

**oddity** [ˈɒdəti] *n.* **1.** дзіва́к; дзіва́чка **2.** дзі́ўнасць, незвыча́йнасць; незразуме́ласць

**odd-job man** [ˌɒdˈdʒɒbmæn] *n.* рознарабо́чы; рознарабо́чая; чалаве́к, які́ выко́нвае выпадко́вую пра́цу

**oddly** [ˈɒdli] *adv.* дзі́ўна; **behave oddly** дзі́ўна паво́дзіць сябе́; **oddly enough** як (гэ́та) ні дзі́ўна

**oddments** [ˈɒdmənts] *n.* **1.** рэ́шткі, абрэ́зкі (*тканіны, дошкі і да т. п.*) **2.** разро́зненыя прадме́ты

**odds** [ɒdz] *n.* **1.** ша́нсы, верагóднасць, магчы́масць; **the odds are (that)** больш пэ́ўна (што) **2.** перава́га; *The odds were in our favour.* Перавага была на нашым баку; *The odds are against us.* Абставіны не на нашу карысць. **3.** ця́жкасці, склада́насці; **against all (the) odds** нягле́дзячы ні на што **4.** ста́ўкі; **long odds** няро́ўныя ша́нсы; **short odds** ама́ль што ро́ўныя ша́нсы; *The odds on this horse are 10 to 1.* Стаўкі на гэтага каня дзесяць супраць аднаго. **5.** рознагало́ссе ♦ **be at odds with smb.** мець рознагало́ссі з кім-н., не ла́дзіць з кім-н.; **it makes no odds** *infml* нява́жна, усё ро́ўна, не ма́е значэ́ння

**odds and ends** [ˌɒdzəndˈendz] *n. infml* дро́бязі; аста́ткі; хлам; уся́кая ўся́чына

**odds-on** [ˌɒdzˈɒn] *adj.* верагóдны, несумне́нны; **the odds-on favourite** гало́ўны прэтэндэ́нт на перамо́гу/першынство́, фавары́т

**ode** [əʊd] *n. lit.* о́да

**odious** [ˈəʊdiəs] *adj. fml* адыёзны; агі́дны, бры́дкі, кра́йне непрые́мны

**odor** [ˈəʊdə] *AmE* = **odour**

**odorless** [ˈəʊdələs] *AmE* = **odourless**

**odorous** [ˈəʊdərəs] *adj. lit.* паху́чы; духмя́ны, во́дарны

**odour** [ˈəʊdə] *n. fml* пах (*асабліва непрыемны*) ♦ **be in good/bad odour with smb.** *fml* быць у ла́сцы/няла́сцы ў каго́-н.

**odourless** [ˈəʊdələs] *adj.* без па́ху

**odyssey** [ˈɒdəsi] *n. lit.* адысе́я; падаро́жжы, блука́нні, вандрава́нні (*звязаныя з рознымі перашкодамі і прыгодамі*)

**OECD** [ˌəʊiːsiːˈdiː] (*скар. ад* **Organization for Economic Cooperation and Development**) АЭСР, Арганіза́цыя эканамі́чнага супрацо́ўніцтва і развіцця́

**Oedipus complex** [ˈiːdɪpəskɒmpleks] *n. psychol.* эды́паў ко́мплекс

**oesophagi** [iˈsɒfəɡaɪ] *pl.* → **oesophagus**

**oesophagus** [iˈsɒfəɡəs] *n.* (*pl.* **oesophaguses** *or* **oesophagi**) *anat.* страваво́д

**oestrogen** [ˈiːstrədʒən] *n.* эстрагé́н (*гармон*)

**of** [ɒv, əv] *prep.* **1. :** *паказвае на прыналежнасць, перадаецца родн. скл.*; **a friend of my parents** ся́бар маі́х бацько́ў; **the role of the teacher** ро́ля наста́ўніка; **the property of the state** дзяржа́ўная маёмасць/ула́снасць **2. :** *па-*

*казвае на складаную частку чаго-н., пэўную колькасць чаго-н., перадаецца родн. скл.*; **the leg of the table** нóжка сталá; **a bag of potatoes** мех бýльбы **3. :** *паказвае на хвіліны пры вызначэнні часу па гадзінніку, назву месяца пасля даты*; **a quarter of twelve** адзінáццаць сóрак пяць, без чвэ́рткі дванáццаць; **the ninth of April** дзявя́тае красавікá **4.** (*паказвае на матэрыял*) з; **made of plastic** зрóблены з плáстыку **5.** (*паказвае на прычыну, падставу*) ад, з, з-за, па; **die of hunger** памéрці ад/з гóладу; **of one's own accord** добраахвóтна, па ўлáсным жадáнні

**off**[1] [ɒf] *adv.* **1. :** *паказвае на адлегласць, аддаленне ў прасторы і часе*; **5 miles off** за пяць міль адсю́ль; **off you go!** прэч!; вон!; выбірáйцеся адгэ́туль!; *Winter is still two months off.* Да зімы яшчэ два месяцы; *The children ran off.* Дзеці пабеглі. **2. :** *паказвае на пазбаўленне ад чаго-н.*; **with his hat off** без капелюшá; **pay off the debt** вы́плаціць доўг; *Hats off!* Шапкі далоў!; *He is going to have his beard off.* Ён збіраецца згаліць бараду. **3. :** *паказвае на выключэнне прыбора ці механізма*; **switch off the light** выключáць святлó **4. :** *паказвае на завяршэнне, спыненне, адмену чаго-н.*; **a day off** выхадны́ (дзень); *He was off sick.* Ён не быў на працы з-за хваробы; **break off work** перапыні́ць прáцу; *The concert is off.* Канцэрт адмянілі. **5. :** *паказвае на забяспечанасць чым-н., у тым ліку матэрыяльнымі сродкамі* ♦ **be badly/well off for smth.** *infml* быць дрэ́нна/дóбра забяспéчаным чым-н.; *How are we off for bread? infml* Колькі ў нас хлеба?; *He's well off.* Ён забяспечаны чалавек.

**off**[2] [ɒf] *prep.* **1.** (*паказвае на аддаленне ці адлучэнне ад чаго-н.*) з, са, ад; **take smth. off a shelf** зняць што-н. з палі́цы; *Keep off the grass!* Па траве не хадзіць! **2.** (*паказвае на знаходжанне на пэўнай адлегласці, звычайна блізкай ад чаго-н.*) ля, ад; **a street off the square** вýліца, якáя выхóдзіць на плóшчу; *The ship sank 5 miles off the coast.* Карабель патануў за пяць міль ад берага. **3.** менш, ніжэ́й; *They took £100 off the price.* Яны знізілі цану на сто фунтаў. **4. :** *паказвае на нежаданне браць удзел у чым-н., рабіць што-н.*; *I'm off smoking.* Я больш не куру.

**offal** [ˈɒfl] *n.* вантрóбы, трыбухí

**off-duty** [ˌɒfˈdju:ti] *adj.* не пры выканáнні службóвых абавя́зкаў

**offence** [əˈfens] *n.* **1. (against)** правапарушэ́нне, злачы́нства; **a criminal offence** крымінáльнае злачы́нства; **an offense against the law** парушэ́нне закóну; **commit an offense** учыня́ць/рабíць злачы́нства **2.** крыýда, абрáза; **give/cause offence to smb.** крыýдзіць/абражáць кагó-н.; **take offence at smb./smth.** крыýдзіцца на кагó-н./штó-н. ♦ **no offense (meant)** *infml* не ў крыýду кáжучы

**offend** [əˈfend] *v.* **1.** крыýдзіць; *I didn't mean to offend you.* Я не хацеў цябе пакрыўдзіць. **2.** зневажáць (*пачуцці*), выклікáць агíду; **offend the eye/the ear** зневажáць зрок/слых **3.** *fml* **(against)** парушáць (*закон, правіла і да т.п.*); рабíць злачы́нства

**offender** [əˈfendə] *n.* **1.** правапарушáльнік, злачы́нца **2.** парушáльнік

**offending** [əˈfendɪŋ] *adj.* **1.** непрыéмны; які́ прычыня́е (фізíчны) боль **2.** злачы́нны; вінавáты ў парушэ́нні/злачы́нстве

**offensive**[1] [əˈfensɪv] *n.* наступлéнне, напáд, атáка ♦ **be on the offensive** вéсці наступлéнне; **take the offensive/go on the offensive** перахóдзіць у наступлéнне

**offensive**[2] [əˈfensɪv] *adj.* **1. (to)** крыýдны, абрáзлівы, знявáжлівы **2.** *fml* вéльмі непрыéмны, агíдны; **an offensive smell** агíдны пах, смурóд **3.** *mil.* наступáльны; **an offensive weapon** наступáльная збрóя

**offer**[1] [ˈɒfə] *n.* **1.** прапанóва; **make an offer** рабíць прапанóву, прапанóўваць; **accept/decline an offer** прымáць/адхіля́ць прапанóву **2.** прапанóва цаны́, прапанавáная цанá; **on offer** у прóдажы; **this week's special offer** скíдка/спецыя́льная прапанóва гэ́тага ты́дня; *I'm open to offers.* Я гатовы разгледзець іншыя прапановы.

**offer**[2] [ˈɒfə] *v.* **1.** прапанóўваць; **offer help** прапанóўваць дапамóгу; *Jim was offered a lift to the station.* Джыму прапанавалі падвезці яго да станцыі. **2.** прапанóўваць да ўвáгі; выкáзваць, акáзваць; **offer an opinion** выкáзваць дýмку, меркавáнне; **offer an apology** прасíць прабачэ́ння; **offer resistance** акáзваць супраціўлéнне; **offer (up) prayers to God** узнóсіць малíтвы да Бóга ♦ **offer one's hand** *fml* пацягваць/падавáць рукý

**offering** [ˈɒfərɪŋ] *n.* **1.** прапанавáнне **2.** ахвяравáнне; ахвярапрынашэ́нне

**offertory** [ˈɒfətri] *n.* **1.** *eccl.* прынясéнне святы́х дарóў (*падчас хрысціянскага богаслужэння*) **2.** ахвяравáнні; грóшы, сабрáныя падчáс богаслужэ́ння

**offhand**[1] [ˌɒfˈhænd] *adj.* бесцырымóнны; **in an offhand manner** бесцырымóнна

**offhand²** [ˌɒfˈhænd] *adv.* без падрыхто́ўкі, экспро́мтам, адра́зу

**office** [ˈɒfɪs] *n.* **1.** о́фіс, канто́ра, канцыля́рыя; **an editorial office** рэда́кцыя; **an enquiry office** бюро́ даве́дак; **a lost property office** бюро́ знахо́дак; **in office hours** у прыёмныя гадзі́ны, у гадзі́ны пра́цы ўстано́вы; *He's gone to the office.* Ён пайшоў на працу. **2.** о́фіс, службо́вае памяшка́нне, кабіне́т; **a private office** асабі́сты кабіне́т **3.** міністэ́рства, ве́дамства; упраўле́нне, аддзе́л; **the Foreign Office** Міністэ́рства заме́жных спраў; **the Home Office** Міністэ́рства ўну́траных спраў **4.** паса́да, слу́жба, пост; **a term of office** тэ́рмін паўнамо́цтваў; **take office** заня́ць паса́ду; прыхо́дзіць да ўла́ды; **hold office** займа́ць пост/паса́ду; **leave office** ісці́ ў адста́ўку ♦ **through smb.'s good offices** *fml* дзя́куючы чыйму́-н. пасрэ́дніцтву

**office boy** [ˈɒfɪsbɔɪ] *n. dated* рассы́льны, пасы́льны, кур'е́р

**office-holder** [ˈɒfɪshəʊldə] *n.* чыно́ўнік, службо́вая асо́ба, дзяржа́ўны слу́жачы

**officer** [ˈɒfɪsə] *n.* **1.** афіцэ́р; **a commanding officer** камандзі́р **2.** чыно́ўнік, службо́вая асо́ба, слу́жачы; **an administrative officer** адміністраты́ўны слу́жачы; **officers of state** дзяржа́ўныя слу́жачыя **3.** паліцэ́йскі

**official¹** [əˈfɪʃl] *n.* чыно́ўнік, службо́вая асо́ба, слу́жачы; **a bank official** ба́нкаўскі слу́жачы; **municipal officials** муніцыпа́льныя ўла́ды; **government officials** дзяржа́ўныя слу́жачыя, ура́давыя чыно́ўнікі

**official²** [əˈfɪʃl] *adj.* афіцы́йны, службо́вы; **official duties** службо́выя абавя́зкі; **an official representative** афіцы́йны прадстаўні́к; **an official reception** афіцы́йны прыём

**officialdom** [əˈfɪʃldəm] *n.* чыно́ўніцтва

**officiate** [əˈfɪʃieɪt] *v.* **1. (at)** выко́нваць рытуа́л; **officiate at a wedding** спраўля́ць абра́д шлю́бу **2.** выко́нваць абавя́зкі; **officiate as host** быць за гаспадара́; **officiate as chairman** старшы́нстваваць

**officious** [əˈfɪʃəs] *adj.* надаку́члівы, назо́йлівы; які́ ўме́шваецца не ў свае́ спра́вы; які́ імкне́цца ўсімі ка́мандаваць/дава́ць усі́м пара́ды

**offing** [ˈɒfɪŋ] *n. infml* **:** ♦ **in the offing** у недалёкай бу́дучыні, у перспекты́ве

**off-licence** [ˈɒflaɪsns] *n. BrE* ві́нна-гарэ́лачная кра́ма, дзе спіртны́я напі́ткі прадаю́ць навы́нас

**offload** [ˌɒfˈləʊd] *v.* пазбаўля́цца (ад) чаго́-н. (*асабліва аддаючы непатрэбнае іншаму*)

**off-peak** [ˌɒfˈpiːk] *adj.* які́ адбыва́ецца ў гадзі́ны заці́шша/не ў гадзі́ны пік; **off-peak traffic** рух тра́нспарту не ў гадзі́ны пік; **off-peak prices** больш ні́зкія цэ́ны

**off-putting** [ˈɒfpʊtɪŋ] *adj. infml* непрые́мны, агі́дны; які́ адшту́рхвае; ад яко́га адваро́чвае; які́ бянтэ́жыць

**off season** [ˈɒfsiːzn] *n.* мёртвы сезо́н, сезо́ннае заці́шша (*у прамысловасці, гандлі і г. д.*)

**offset** [ˈɒfset] *v.* кампенсава́ць, ураўнава́жваць

**offshoot** [ˈɒfʃuːt] *n.* адгалінава́нне, бакавы́ ато́жылак (*таксама перан.*); **the offshoots of a tree** бакавы́я ато́жылкі дрэ́ва; **various offshoots of sectarianism** ро́зныя адгалінава́нні секта́нцтва

**offshore** [ˌɒfˈʃɔː] *adj.* **1.** які́ знахо́дзіцца на некато́рай адле́гласці ад бе́рага; **offshore islands** прыбярэ́жныя астравы́ **2.** які́ ру́хаецца ад бе́рага; **an offshore wind** ве́цер з бе́рага **3.** *econ.* афшо́рны

**offshoring** [ˌɒfˈʃɔːrɪŋ] *n.* афшо́рынг

**offside** [ˌɒfˈsaɪd] *n. sport* афса́йд, стано́вішча паза гульнёй

**offspring** [ˈɒfsprɪŋ] *n.* (*pl.* **offspring**) *fml* **1.** пато́мак, нашча́дак, ато́жылак **2.** пато́мства, маладня́к (*пра жывёлу*)

**offstage** [ˌɒfˈsteɪdʒ] *adj.* закулі́сны; які́ адбыва́ецца за кулі́самі/за сцэ́най тэа́тра; **offstage whisper/sound effects** шэпт/гукавы́я эфе́кты за кулі́самі

**off-white** [ɒfˈwaɪt] *adj.* не зусі́м бе́лы, шарава́табе́лы, жаўтава́та-бе́лы

**often** [ˈɒfn, ˈɒftən] *adv.* ча́ста; шмат разо́ў ♦ **as often as not**/**more often than not** ве́льмі ча́ста, часце́й за ўсё, звыча́йна; **every so often** час ад ча́су, калі́-нікалі́

**ogle** [ˈəʊgl] *v.* **1.** пажа́дліва глядзе́ць, е́сці вачы́ма **2.** стро́іць во́чкі

**ogre** [ˈəʊgə] *n.* **1.** веліка́н-людае́д (*у казках*) **2.** жахлі́вы чалаве́к, пачва́ра

**oh** [əʊ] *interj.* о!; ах!; ох!; вох!; вой! (*выказвае пачуццё здзіўлення, захаплення, абурэння, страху, болю і да т.п.*); **Oh God!** А(х) Бо́жухна!; *Oh, how horrible!* (Вой), які жах!

**ohm** [əʊm] *n. phys.* ом

**OHMS** [ˌəʊeɪtʃemˈes] *BrE* (*скар. ад* **On Her/His Majesty's Service**) які́ знахо́дзіцца на карале́ўскай слу́жбе

**oil¹** [ɔɪl] *n.* **1.** на́фта; **the oil industry** на́фтавая прамысло́васць; **an oil refinery** нафтаачышча́льны заво́д **2.** ма́сла (*тэхнічнае*); **lubricating oil** змаза́чнае ма́сла; **engine oil** машы́ннае ма́сла **3.** але́й (*раслінны*), ма́сла (*мінеральнае*); **coconut/sunflower/olive oil** како́савы/слане́чнікавы/алі́ўкавы але́й; **cod liver oil** ры́бін тлушч **4.** *pl.* **oils** але́йныя фа́рбы;

**paint in oils** пісáць алéем ♦ **pour oil on troubled waters** утаймóўваць, супакóйваць хвалявáнне; **burn the midnight oil** засéджвацца за рабóтай да глыбóкай нóчы; працавáць па начáх

**oil²** [ɔɪl] *v.* **1.** змáзваць; **oil a lock** змáзваць замóк **2.** прапíтваць мáслам ♦ **oil the wheels** улáджваць спрáву

**oilcan** [ˈɔɪlkæn] *n.* маслёнка (*пасудзіна для змазачнага масла*)

**oilcloth** [ˈɔɪlklɒθ] *n.* **1.** цырáта **2.** лінóлеум

**oilfield** [ˈɔɪlfiːld] *n.* радóвішча нáфты

**oil paint** [ˈɔɪlpeɪnt] *n.* алéйная фáрба

**oil rig** [ˈɔɪlrɪg] *n.* нáфтавая/бураваѧ вы́шка

**oilskin** [ˈɔɪlskɪn] *n.* **1.** непрамакáльная тканíна; **an oilskin coat** непрамакáльнае палітó **2.** *pl.* **oilskins** непрамакáльны касцю́м

**oil slick** [ˈɔɪlslɪk] *n.* нáфтавая плѧ́ма, плéўка нáфты (*на паверхні вады*)

**oil well** [ˈɔɪlwel] *n.* нáфтавая свідравíна

**oily** [ˈɔɪli] *adj.* **1.** тлýсты, пакры́ты мáслам, зашмальцавáны; **an oily skin** тлýстая скýра **2.** мáслены, масляні́сты, алéісты; **an oily liquid** масляні́стая вáдкасць **3.** *derog.* ліслíвы, падлíзлівы, угóдлівы/дагóдлівы, ялéйны; **an oily smile** угóдлівая ўсмéшка

**ointment** [ˈɔɪntmənt] *n.* мазь; **an antiseptic ointment** антысепты́чная мазь ♦ **a/the fly in the ointment** ≅ лы́жка дзёгцю ў бóчцы мёду; дрóбязь, здóльная атрýціць/сапсавáць што-н. дóбрае

**OK¹** [əʊˈkeɪ] *n. infml* адабрэ́нне; дазвóл, згóда; **give/get the OK to do smth.** давáць/атры́мліваць дазвóл зрабíць што-н.

**OK²** [əʊˈkeɪ] *adj. infml* дóбры; *Everything is OK.* Усё ў парадку; *It's OK by me.* Я не супраць; *Are you* (*feeling*) *OK?* Ты ў парадку?

**OK³** [əʊˈkeɪ] *v. infml* давáць згóду, давáць дазвóл, адóбрываць; *The plan was OK'd.* План быў зацверджаны.

**OK⁴** [əʊˈkeɪ] *interj. infml* дóбра!; згóда!; няхáй так!; слýхаю!; бýдзе зрóблена!

**okay** [əʊˈkeɪ] = **OK**

**old** [əʊld] *adj.* **1.** (*пра ўзрост*) **a six-year old girl** шасцігадóвая дзяўчы́нка; *How old are you?* Колькі табе гадоў?; *She is old enough to know better.* У яе ўзросце трэба ўжо добра разумець, што да чаго. **2.** стары́; **an old man/woman** стары́/старáя; **old age** стáрасць; **get/grow old** стáрыцца, старэ́ць **3.** стары́, панóшаны; **old rags** рыззё, стары́зна; **the same old excuses** адны́я і ты́я ж апраўдáнні **4.** былы́; ранéйшы; мінýлы; **Old English** стараанглíйская мóва; *Things were different in the old days.* Даўней усё было па-іншаму. ♦ **an old wives' tale** бáбіны/бабýліны кáзкі, бáбскія плёткі; **as old as the hills** стары́ як свет; **for old time's sake** па старóй пáмяці

**old-age pension** [ˌəʊldeɪdʒˈpenʃn] *n. BrE* пéнсія па ўзрóсце

**old boy** [ˈəʊldbɔɪ] *n. BrE* **1.** былы́ вýчань, былы́ гадавáнец навучáльнай установы (*звыч. закрытага тыпу*); аднакáшнік **2.** *infml* стары́; пажылы́ чалавéк

**old-fashioned** [ˌəʊldˈfæʃnd] *adj.* **1.** старамóдны, устарэ́лы, састарэ́лы **2.** старамóдны; які́ прытры́мліваецца стары́х ідэ́алаў, звы́чаяў і да т.п.

**old hand** [ˌəʊldˈhænd] *n.* **(at)** вóпытны/дасвéдчаны чалавéк; **an old hand at fishing** вóпытны рыбалóў; *He is an old hand at that.* Ён у такіх справах майстар.

**old master** [ˌəʊldˈmɑːstə] *n.* **1.** стары́ мáйстар (*асабліва пра славутых мастакоў XIII–XVII стст.*) **2.** карцíна старóга мáйстра

**Old Nick** [əʊldˈnɪk] *n. dated* д'я́бал, чорт, сатанá, злы дух

**Old Testament** [ˌəʊldˈtestəmənt] *n.* **the Old Testament** Стары́ Запавéт

**Old World** [ˌəʊldˈwɜːld] *n.* **the Old World** Стары́ Свет; усхóдняе паўшáр'е

**O level** [ˈəʊlevl] *n.* (*скар. ад* **ordinary level**) экзáмен па прагрáме сярэ́дняй шкóлы на звычáйным узрóўні (*існаваў да 1988 г. у Англіі і Уэльсе*)

**olfactory** [ɒlˈfæktəri] *adj. fml.* нюхальны; **olfactory nerves** нюхальныя нéрвы; **olfactory organs** óрганы нюху

**oligarchy** [ˈɒlɪgɑːki] *n.* алігáрхія

**olive** [ˈɒlɪv] *n.* алíва, маслíна; **an olive tree** алíўкавае дрэ́ва

**olive branch** [ˈɒlɪvbrɑːntʃ] *n.* алíўкавая галíна/галíнка (*сімвал міру*); **hold out an olive branch** рабíць мíрныя прапанóвы, спрабавáць улáдзіць спрáву мíрам

**Olympiad** [əˈlɪmpiæd] *n.* **1.** алімпія́да, Алімпíйскія гýльні **2.** алімпія́да (*спартыўныя, тэатральныя, навуковыя і да т. п. спаборніцтвы*)

**Olympian** [əˈlɪmpiən] *adj.* **1.** *myth.* алімпíйскі, бóскі **2.** вéлічны

**Olympic** [əˈlɪmpɪk] *adj.* алімпíйскі; **an Olympic champion** чэмпіён Алімпíйскіх гýльняў

**Olympic Games** [əˌlɪmpɪkˈgeɪmz] *n. pl.* **the Olympic Games** Алімпíйскія гýльні

**Olympics** [əˈlɪmpɪks] *pl.* **the Olympics** → **Olympic Games**

**ombudsman** [ˈɒmbʊdzmən] *n.* (*pl.* **-men**) óмбудсмен (*службовая асоба, якая ажыццяўляе кантроль за дзейнасцю ўрадавых органаў*)

**ombudsmen** [ˈɒmbʊdzmən] *pl.* → **ombudsman**

**omega** [ˈəʊmɪgə] *n.* аме́га (*апошняя літара грэчаскага алфавіта*)

**omelette** [ˈɒmlət] *n.* амле́т ♦ **you can't make an omelette without breaking eggs** ≅ лес сяку́ць – трэ́скі ляця́ць

**omen** [ˈəʊmən] *n.* прыме́та, знак; **a good/bad omen** до́брая/дрэ́нная прыме́та

**ominous** [ˈɒmɪnəs] *adj.* злаве́сны, пагража́льны, пагро́злівы; *These clouds look ominous.* Гэтыя хмары нічога добрага не прадвяшчаюць.

**omission** [əˈmɪʃn] *n.* **1.** про́пуск **2.** про́мах, хі́ба, недагля́д, нядба́йнасць

**omit** [əˈmɪt] *v. fml* **1.** прапуска́ць, не ўключа́ць; **omit details** прапуска́ць падрабя́знасці **2.** упуска́ць; *I omitted to tell her.* Я зусім забыўся сказаць ёй.

**omnibus** [ˈɒmnɪbəs] *n.* **1.** збо́рнік, аднато́мнік **2.** *dated* о́мнібус; аўто́бус

**omnipotent** [ɒmˈnɪpətənt] *adj. fml* усёмагу́тны; **the omnipotent God** Бог усёмагу́тны

**omniscient** [ɒmˈnɪsiənt] *adj. fml* усёве́дны; *Only God is omniscient.* Адзін толькі Бог ведае ўсё.

**omnivorous** [ɒmˈnɪvərəs] *adj. fml* **1.** усёе́дны, усёпажыра́льны; **an omnivorous animal** усёе́дная жывёліна **2.** які́ пра́гна ўбіра́е/паглына́е; **an omnivorous reader** заўзя́ты кнігалю́б

**on**[1] [ɒn] *adv.* дале́й, напе́рад; **and so on** і гэ́так дале́й; **go on!** праця́гвайце!/дале́й!; *Read on!* Чытайце далей!;**go on!** ідзі́це ўпе́рад/напе́рад/дале́й!; **from now on** (пачына́ючы) з гэ́тага дня; **later on** пазне́й; **it isn't on** *infml* гэ́та немагчы́ма; **the radio is on** ра́дыё ўклю́чана; **the light is on** святло́ запа́лена/гары́ць; *What's on tonight?* Што сёння ідзе? (*у тэатры, кіно і да т.п.*); *He had his glasses on.* Ён быў у акулярах.

**on**[2] [ɒn] *prep.* **1.** (*пра месцазнаходжанне*) на, каля́; **a ring on the finger** пярсцёнак на па́льцы; **a café on the river** кафэ́ ля ракі́, кавя́рня на бе́разе ракі́ **2.** (*пра сродкі і спосабы перамяшчэння*) на; **on foot** пехато́й, пе́шкі, пе́шшу, пе́шым хо́дам; **on horseback** вярхо́м, ве́рхам, ко́нна; **on tiptoe** на па́льчыках, на ды́бачках **3.** (*пра час*) у, на, па; **on the morning of the 18th of July** ра́ніцай васямна́ццатага лі́пеня; **on Friday** у пя́тніцу; **on Tuesdays** па аўто́рках; **on arrival** па прыбыцці́; **on time** у час **4.** аб, пра; **a book on music** кні́га пра му́зыку **5.** (*пра кірунак*) на, у; **on the left/right** зле́ва/спра́ва; **knock on the door** сту́каць у дзве́ры; **kiss smb. on the lips** цалава́ць каго́-н. у гу́бы/ву́сны; *He turned his back on us.* Ён павярнуўся плячамі да нас; (*таксама перан.*) Ён адвярнуўся ад нас; **on the radio/telephone/television** па ра́дыё/тэлефо́не/тэлеба́чанні ♦ **on behalf of** ад імя́; **on the contrary** наадваро́т; **on no account** ні ў я́кім ра́зе; *Drinks **are on me**.* Я плачу́ (за вы́піўку).

**once** [wʌns] *adv.* **1.** (адзі́н) раз, адно́йчы; **once a week** раз на ты́дзень; **once more/again** яшчэ́ раз; **once or twice** раз ці два, разы́ два, не́калькі разо́ў; **(every) once in a while** час ад ча́су, калі́-нікалі́; *I saw him once.* Я бачыў яго аднойчы. **2.** не́калі; адно́йчы, аднаго́ ра́зу ♦ **once upon a time there was…** даўны́м даўно́/з даўны́х-даўна́/шмат гадо́ў таму́ жыўбыў...; **at once** 1) адра́зу, неадкла́дна, за́раз жа; 2) аднача́сова, у адзі́н і той жа час, ра́зам (з); **all at once** 1) нечака́на, ра́птам; 2) усе́ ра́зам; **for once** на гэ́ты раз; у вы́глядзе выключэ́ння; **once in a blue moon** *infml* ве́льмі рэ́дка; ≅ на то́е ле́та пасля́ абе́ду; калі́ рак (на гары́) сві́сне; на святы́я ніко́лі; **once bitten, twice shy** ≅ апёкшыся малако́м, і ваду́ студзі́ць бу́дзеш; пу́жаная варо́на і куста́ баі́цца

**oncology** [ɒŋˈkɒlədʒi] *n.* анкало́гія

**oncoming** [ˈɒnkʌmɪŋ] *adj.* **1.** які́ набліжа́ецца/прыбліжа́ецца/насо́ўваецца; **the oncoming traffic** сустрэ́чны рух (*пра транспарт*) **2.** бу́дучы; які́ ма́е быць/адбы́цца

**one**[1] [wʌn] *num., n.* лі́чба адзі́н; **one, two, three**… раз, два, тры…; **one and a half** паўтара́; **chapter one** глава́ пе́ршая; *The baby is only one.* Дзіцяці толькі год; *He'll come at one.* Ён прыйдзе а першай гадзіне; **last but one** перадапо́шні; **(come) in ones and twos** (прыхо́дзіць) па адны́м і па дво́е; **one or two** не́калькі; няшма́т; **one day** адно́йчы ♦ **one after another** адзі́н за адны́м; **one and all** *dated, infml* усе́ да аднаго́; **be at one with smb.** *fml* быць заадно́ з кім-н., быць ца́лкам зго́дным з кім-н.; *He looks after number one.* Ён дбае толькі пра свае інтарэсы; *It's all one to me.* Мне ўсё роўна.

**one**[2] [wʌn] *pron.* **1. :** *ужываецца замест назоўніка, каб пазбегнуць паўтору*; **new laws and old ones** зако́ны но́выя і стары́я **2. :** *ужываецца ў няпэўна-асабовых сказах*; *How can one do it?* Як гэта зрабіць? ♦ **one never knows** ніко́лі не ве́даеш; хто яго́ ве́дае; **the one about…** жарт, анекдо́т; **the little ones** дзе́ці

**one another** [ˌwʌnəˈnʌðə] *pron.* адзі́н аднаго́, адзі́н друго́га; адна́ адну́, адна́ другу́ю; адно́ аднаго́, адно́ друго́га

**one-armed bandit** [ˌwʌnɑːmdˈbændɪt] *n.* ігра́льны аўтама́т (*звыч. з адной ручкай, «аднарукі бандыт»*)

**oneness** [ˈwʌnnəs] *n. fml* адзі́нства, супо́льнасць, е́днасць; непары́ўнасць; ядна́нне, лу́чнасць

**one-off** [ˌwʌnˈɒf] *adj. BrE* уніка́льны, адзі́ны; ра́завы; **a one-off payment** аднаразо́вая вы́плата; ра́завы плацё́ж

**onerous** [ˈəʊnərəs] *adj. fml* ця́жкі, цяжкава́ты; нялёгкі (*для выканання*); які́ патрабу́е вы́сілку; **onerous duties** ця́жкія абавя́зкі

**oneself** [wʌnˈself] *pron. fml* **1.** сябе́, сабе́; **do smth. for oneself** рабі́ць што-н. для сябе́; **talk to oneself** размаўля́ць з самі́м сабо́ю; **hurt oneself** уда́рыцца, вы́цяцца, сту́кнуцца; **see smth. for oneself** ба́чыць на свае́ во́чы, пера-ко́нвацца **2.** сам; сама́; само́; **one has to do it oneself** трэ́ба зрабі́ць гэ́та само́му ♦ **(all) by oneself** 1) адзі́н, сам, без дапамо́гі; 2) адзі́н, у адзіно́це, у само́це; **be oneself** быць у нарма́льным ста́не (*фізічным і маральным*); быць самі́м сабо́й

**one-sided** [ˌwʌnˈsaɪdɪd] *adj.* **1.** аднабако́вы; прадузя́ты; неаб'екты́ўны, небесстаро́нні **2.** няро́ўны, нераўнацэ́нны; нераўнаме́рны; **a one-sided fight** няро́ўная схва́тка

**one-time** [ˈwʌntaɪm] *adj.* **1.** былы́; **a one-time director** былы́ дырэ́ктар **2.** аднаразо́вы; які́ сустрака́ецца/адбыва́ецца то́лькі адно́йчы; **a one-time fee** аднаразо́вая вы́плата; ра́завы плацё́ж

**one-to-one** [ˌwʌntəˈwʌn] *adj.* **1.** адзі́н на адзі́н, без све́дак, з во́ка на во́ка, сам-на́сам; **a one-to-one meeting** сустрэ́ча адзі́н на адзі́н **2.** адзі́н к аднаму́; **a one-to-one correlation** суадно́сіны адзі́н к аднаму́

**one-way** [ˌwʌnˈweɪ] *adj.* аднабако́вы, у адзі́н бок (*пра рух*); **a one-way street** ву́ліца з аднабако́вым ру́хам; **a one-way ticket** *AmE* біле́т у адзі́н бок

**ongoing** [ˈɒngəʊɪŋ] *adj.* **1.** бесперапы́нны, безупы́нны, няспы́нны, пастая́нны **2.** які́ адбыва́ецца ў цяпе́рашні час; **ongoing negotiations** перамо́вы, які́я прахо́дзяць у цяпе́рашні час

**onion** [ˈʌnjən] *n.* цыбу́ля; цыбу́ліна; **onion soup** цыбу́льны суп; *Chop the onions finely.* Дробна пакрышыце цыбулю. ♦ **know one's onions** *infml* ≅ з'е́сці на чым-н. зу́бы/саба́ку; быць знатако́м/зна́ўцам; разбіра́цца ў чым-н.

**online** [ˌɒnˈlaɪn] *adj. comput.* анла́йнавы, неаўтано́мны; падклю́чаны

**onlooker** [ˈɒnlʊkə] *n.* глядáч; нагляда́льнік, назіра́льнік; све́дка

**only¹** [ˈəʊnli] *adj.* адзі́ны; **an only child** адзі́нае дзіця́ ♦ **the only thing that matters** адзі́нае, што ма́е значэ́нне; *He was the only one to object.* Толькі ён і быў супраць; **the only thing is…** *infml* спра́ва ў тым, што...

**only²** [ˈəʊnli] *adv.* то́лькі; **if only** калі́ б то́лькі; **only just** то́лькі што; **only too** ве́льмі, на́дта, надзвы́чай; *I saw him only yesterday.* Я бачыў яго толькі ўчора; *Only a doctor can do that.* Толькі ўрач можа гэта зрабіць; *You only have to look at this man to see he doesn't eat enough.* Дастаткова толькі глянуць на гэтага чалавека, каб зразумець, што ён недаядае.

**only³** [ˈəʊnli] *conj. infml* то́лькі, але́; *You may go, only come back early.* Можаш ісці, толькі вяртайся не позна.

**onomatopoeia** [ˌɒnəˌmætəˈpiːə] *n. ling.* анаматапе́я, гукаперайма́нне

**onrush** [ˈɒnrʌʃ] *n. fml* на́ціск, ата́ка; пры́то́к, прылі́ў; **an onrush of tears** пато́к слёз

**onset** [ˈɒnset] *n.* **1.** пача́так (*асабліва чаго-н. непрыемнага*); **the onset of war** пача́так вайны́ **2.** ата́ка, на́ціск, напа́д

**onslaught** [ˈɒnslɔːt] *n.* **(on)** на́ціск, нападзе́нне; **make an onslaught on smb.** шалёна атакава́ць каго́-н.

**onto** [ˈɒntu, ˈɒntə] *prep.* на, у; **be onto smth.** даве́двацца пра што-н., уніка́ць у што-н., быць у ку́рсе спра́вы

**onus** [ˈəʊnəs] *n.* **the onus** *fml* цяжа́р, адка́знасць, доўг, абавя́зак; **the onus is on smb. (to do smth.)** цяжа́р адка́знасці (за што-н.) ляжы́ць на кім-н.

**onward** [ˈɒnwəd] *adj. fml* які́ ру́хаецца дале́й/напе́рад; **an onward movement** рух напе́рад

**onwards** [ˈɒnwədz] *adv.* напе́рад, упе́рад, дале́й; **from then onwards** з той пары́, з таго́ ча́су; **from now onwards** надале́й, у дале́йшым, ад/з гэ́тага ча́су

**oops** [uːps] *interj. infml* вой!; ох!; вох!; ух! (*выказвае пачуццё спалоху, здзіўлення і да т.п.*); *Oops! I nearly dropped my cup of tea!* Вой! Я ледзь не ўпусціў свой кубачак гарбаты!

**ooze¹** [uːz] *n.* **1.** глей, буза́, лі́пкая/гле́йкая гразь **2.** прасо́чванне; паво́льнае выцяка́нне (*вільгаці*)

**ooze²** [uːz] *v.* сачы́цца, выцяка́ць па кро́плі/то́нкім струме́нем; *The wound was oozing blood.* З раны сачылася кроў; *Her eyes oozed kindness.* Яе вочы свяціліся/прамянелі дабратой.

**opacity** [əʊˈpæsəti] *n. fml* **1.** непразры́стасць; святлонепраніка́льнасць **2.** няя́снасць, невыра́знасць, цьмя́насць

**opal** [ˈəʊpl] *n. min.* апа́л; **a bracelet made of opals** бранзале́т (зро́блены) з апа́лаў

**opaque** [əʊˈpeɪk] *adj.* **1.** непразры́сты, святлонепраніка́льны; **opaque glass** непразры́стае шкло **2.** няя́сны; невыра́зны; незразуме́лы; няпэ́ўны

**OPEC** [ˈəʊpek] (*скар. ад* **Organization of Petroleum Exporting Countries**) АПЕК, Арганіза́цыя кра́ін – экспарцёраў на́фты

**open**[1] [ˈəʊpən] *n.* **the open** адкры́тае ме́сца, прасто́ра; **in the open** на во́льным паве́тры, пад адкры́тым не́бам; **bring smth. (out) into the open** даво́дзіць што-н. да агу́льнага ве́дама/да ве́дама пу́блікі

**open**[2] [ˈəʊpən] *adj.* **1.** адчы́нены, расчы́нены, адкры́ты; **an open door** адчы́неныя дзве́ры; **an open mouth** разя́ўлены/адкры́ты рот; **open eyes** расплю́шчаныя во́чы; **an open book** разго́рнутая кні́га; **an open shirt** расшпі́леная кашу́ля; *The flowers are all open now.* Кветкі ўжо ўсе параспускаліся. **2.** адкры́ты, неперасе́чаны; **open country** неперасе́чаная мясцо́васць **3.** во́льны, дасту́пны (*для наведвання*); **open to the public** уваха́д во́льны **4.** незаня́ты; *Is the vacancy still open?* Вакансія пакуль незанятая? **5.** адкры́ты, я́ўны, публі́чны; **open hostility** адкры́тая/я́ўная варо́жасць; **an open secret** сакрэ́т палішынеля; сакрэ́т, які́ ўсім вядо́мы; уя́ўная та́йна **6.** нявы́рашаны; нявы́значаны, няпэ́ўны; **an open question** адкры́тае пыта́нне **7.** адкры́ты, шчы́ры; **be open with smb.** быць шчы́рым з кім-н. ♦ **keep one's ears/eyes open** быць насцяро́жаным/напагато́ве; *He went into it with his eyes open.* Ён свядома ішоў на гэта; **welcome smb. with open arms** сустрака́ць каго́-н. сардэ́чна/гасці́нна/ве́тліва

**open**[3] [ˈəʊpən] *v.* **1.** адкрыва́ць, адчыня́ць; адкрыва́цца, адчыня́цца; **open one's eyes** расплю́шчваць во́чы; **open a book** раскрыва́ць/разго́ртваць кні́гу; **open an umbrella** раскрыва́ць парасо́н; **open the door** адчыня́ць дзве́ры; *The shop opens at 9 o'clock.* Крама адчыняецца а дзявятай гадзіне; *Flowers open in the sun.* Кветкі распускаюцца на сонцы. **2.** адкрыва́ць, пачынаць; адкрыва́цца, пачына́цца; **open negotiations** пачына́ць перамо́вы; **open fire** адкрыва́ць аго́нь ♦ **open smb.'s eyes to smth.** адкрыва́ць каму́-н. во́чы на што-н.; **the heavens opened** дождж палі́ў як з вядра́/цэ́бра

**open out** [ˌəʊpənˈaʊt] *phr.v.* расшыра́цца, пашыра́цца; **open out to smb.** гавары́ць больш во́льна з кім-н.; стаць самі́м сабо́й

**open up** [ˌəʊpənˈʌp] *phr.v.* **1.** гавары́ць шчы́ра/адкры́та **2.** адкрыва́ць аго́нь (*пра стральбу*); *Anti-aircraft guns opened up.* Зенітная/супрацьпаветраная артылерыя адкрыла агонь. **3.** адчыня́ць дзве́ры (*звыч. ужываецца ў загадах*)

**open-air** [ˌəʊpənˈeə] *adj.* які́ адбыва́ецца/знахо́дзіцца на во́льным паве́тры; **an open-air swimming-pool** басе́йн пад адкры́тым не́бам

**open-and-shut case** [ˌəʊpənəndʃʌtˈkeɪs] *n.* відаво́чная/про́стая/элемента́рная спра́ва, а́збучная і́сціна

**open day** [ˈəʊpəndeɪ] *n. BrE* дзень адчы́неных дзвярэ́й (*у арганізацыі, навучальнай установе і да т.п.*)

**open-ended** [ˌəʊpənˈendɪd] *adj.* **1.** не абмежава́ны ча́сам/у ча́се; **open-ended contracts** бестэрміно́выя кантра́кты **2.** неканчатко́вы; які́ дапуска́е папра́ўкі, змяне́нні

**opener** [ˈəʊpnə] *n.* прыла́да для адкрыва́ння бутэ́лек, бляша́нак; **a can-opener** консе́рвавы нож, адкрыва́лка для бляша́нак;

**open-hearted** [ˌəʊpənˈhɑːtɪd] *adj.* **1.** вялікаду́шны, до́бры **2.** адкры́ты, шчы́ры, чыстасардэ́чны

**opening**[1] [ˈəʊpnɪŋ] *n.* **1.** адту́ліна, шчы́ліна; **an opening in a wall** дзі́рка ў сцяне́; **an opening in the clouds** прасве́т у во́блаках **2.** пача́так; **the opening of a film** пача́так фі́льма **3.** адкрыццё (*выставы, канферэнцыі і да т.п.*); **the opening of an exhibition** адкрыццё выста́вы **4.** вака́нсія; *We have an opening for an engineer.* У нас ёсць вакантная пасада інжынера. **5.** спрыя́льная магчы́масць, зру́чны вы́падак

**opening**[2] [ˈəʊpnɪŋ] *adj.* пе́ршы, пачатко́вы, зыхо́дны, усту́пны; **opening chapters** пе́ршыя раздзе́лы; **the opening ceremony of the Olympic games** цырымо́нія адкрыцця́/урачы́стае адкрыццё Алімпі́йскіх гу́льняў; **an opening night** прэм'ера

**openly** [ˈəʊpənli] *adv.* **1.** адкры́та, публі́чна **2.** шчы́ра, праўдзі́ва

**open-minded** [əʊpənˈmaɪndɪd] *adj.* **1.** непрадузя́ты **2.** успрыма́льны, адкры́ты (*да новых ідэй*)

**opera** [ˈɒprə] *n.* о́пера; **an opera singer** о́перны спява́к; **the opera season** о́перны сезо́н

**opera house** [ˈɒprəhaʊs] *n.* о́перны тэ́атр

**operate** [ˈɒpəreɪt] *v.* **1.** дзе́йнічаць, працава́ць; **Japanese companies operating in Europe** япо́нскія кампа́ніі, які́я дзе́йнічаюць у Еўро́пе **2.** уздзе́йнічаць, уплыва́ць **3.** кірава́ць, зага́дваць **4.** *med.* **(on smb.) (for smth.)** апяры́раваць, рабі́ць апера́цыі; *He was operated on for appendicitis.* Яму прааперыравалі апендыцыт.

**operatic** [ˌɒpəˈrætɪk] *adj.* óперны; **operatic arias** óперныя áрыі

**operating-theatre** [ˈɒpəreɪtɪŋθɪətə] *n.* аперацы́йная

**operation** [ˌɒpəˈreɪʃn] *n.* **1.** *med.* (хірургі́чная) аперáцыя; **have/ undergo an operation** перанóсіць аперáцыю; **perform an operation** рабі́ць аперáцыю; **a kidney transplant operation** аперáцыя па трансплантáцыі/перасáдцы ны́ркі **2.** аперáцыя (*асобнае дзеянне ў шэрагу іншых падобных*); **a rescue operation** аперáцыя па ратавáнні **3.** *econ.* гандлёвая/фінáнсавая аперáцыя; здзéлка **4.** дзéянне, функцыянавáнне **5.** *mil.* аперáцыя, ваéнныя дзéянні ♦ **in operation** у дзéянні; **come into operation** пачынáць дзéйнічаць; уваxóдзіць у сі́лу (*пра закон*); **put into operation** увóдзіць у дзéянне/у эксплуатáцыю/ва ўжывáнне

**operational** [ˌɒpəˈreɪʃənl] *adj.* **1.** дзéючы, які́ функцыянýе; *The system is fully operational.* Сістэма цалкам гатова да эксплуатацыі. **2.** аператы́ўны, баявы́ **3.** аперацы́йны; **operational costs** выдáткі на аперáцыю

**operative** [ˈɒpərətɪv] *adj.* **1.** дзéючы; дзéйсны; **become operative** набывáць моц, уваxóдзіць у сі́лу (*пра закон*) **2.** *med.* аперацы́йны; **operative treatment** аперацы́йнае ўмяшáнне ♦ **the operative word** ключавóе слóва, найбóльш вáжнае слóва (*у сказе*)

**operator** [ˈɒpəreɪtə] *n.* **1.** аперáтар (*у розных знач.*); **a computer operator** аперáтар ЭВМ **2.** тэлефані́ст, сувязі́ст; тэлефані́стка, сувязі́стка **3.** уладáльнік, кіраўні́к (прадпрыéмства); **a smooth/ slick operator** *infml* лóўкі дзялóк, спрытнюґа

**ophthalmology** [ˌɒfθælˈmɒlədʒi] *n. med.* афтальмалóгія

**opinion** [əˈpɪnjən] *n.* **1.** дýмка, пóгляд, меркавáнне, перакананне; **in my opinion** на маю́ дýмку, на мой пóгляд, па-мóйму; **be of the opinion that**… *fml* меркавáць/лічы́ць/дýмаць, што...; **public opinion** грамáдская дýмка; **a matter of opinion** спрэ́чнае пытáнне **2.** заключэ́нне спецыялі́ста; экспéртнае заключэ́нне; **have a high/low opinion of smb./smth.** быць высóкай/невысóкай дýмкі аб кім-н./ чым-н.

**opium** [ˈəʊpiəm] *n.* óпіум, óпій; **the opium trade** гáндаль óпіумам

**opossum** [əˈpɒsəm] *n. zool.* апóсум

**opponent** [əˈpəʊnənt] *n.* апанéнт; праці́ўнік; канкурэ́нт; праці́ўніца; канкурэ́нтка

**opportune** [ˈɒpətjuːn] *adj. fml* **1.** зрýчны, адпавéдны, падыxóдзячы; **an opportune moment** зрýчны мóмант **2.** своечасóвы; **an opportune remark** слýшная/трáпная заўвáга, заўвáга дарэ́чы/да мéсца

**opportunism** [ˌɒpəˈtjuːnɪzəm] *n.* апартуні́зм; прыстасавáльніцтва; **political opportunism** паліты́чны апартуні́зм

**opportunity** [ˌɒpəˈtjuːnəti] *n.* **(for, of)** магчы́масць, зрýчны вы́падак; **equal opportunities** рóўныя шáнсы/магчы́масці; **at the earliest opportunity** пры пéршай (жа) магчы́масці; **take the opportunity (of)** выкарыстóўваць вы́падак

**oppose** [əˈpəʊz] *v.* праці́віцца; супраціўля́цца; быць сýпраць; *He opposed the decision.* Ён не пагадзіўся з рашэннем; *I oppose the motion.* Я супраць гэтай прапановы.

**opposing** [əˈpəʊzɪŋ] *adj.* **1.** які́ процістаі́ць/ супрацьстаі́ць; **a player from the opposing team** ігрóк з камáнды праці́ўніка **2.** супрацьлéглы, процілéглы (*пра стаўленне, думкі, погляды, тэндэнцыі*)

**opposite**[1] [ˈɒpəzɪt] *adj.* **1.** процілéглы, адварóтны; **in the opposite direction** у процілéглым напрáмку **2.** які́ знаxóдзіцца насýпраць; *Clouds of smoke belched out of the windows of the house directly opposite.* Клубы дыму вырываліся з акон дома, што якраз насупраць. ♦ **your opposite number** асóба, якáя займáе такýю ж пасáду ў і́ншай установе; **the opposite sex** процілéглы пол

**opposite**[2] [ˈɒpəzɪt] *adv.* насýпраць (адзі́н аднагó); *The man sitting opposite is a notary.* Чалавек, што сядзіць насупраць, – натарыус.

**opposite**[3] [ˈɒpəzɪt] *prep.* насýпраць; па другі́ бок; **the house opposite ours** дом насýпраць нáшага

**opposition** [ˌɒpəˈzɪʃn] *n.* **1.** процідзéянне, супраціўлéнне; **meet with opposition** сустракáць процідзéянне/пярэ́чанні **2. the Opposition** апазі́цыя (*палітычная партыя*); **the leader of the Opposition** лі́дар апазі́цыі **3.** *ling.* апазі́цыя

**oppress** [əˈpres] *v.* **1.** прыгнятáць, уціскáць; **oppress the weak** прыгнятáць слáбых **2.** гнясці́, прыгнятáць; **be oppressed by/with smth.** быць прыгнéчаным чым-н.

**oppression** [əˈpreʃn] *n.* **1.** уці́ск; прыгнёт, прыгнéчанне; **victims of oppression** ахвя́ры прыгнёту **2.** прыгнéчанасць

**oppressive** [əˈpresɪv] *adj.* **1.** жóрсткі, несправядлі́вы, ця́жкі; **oppressive taxes** ця́жкія падáткі **2.** пакýтлівы, нясцéрпны, прыгнятáльны; **oppressive heat** нясцéрпная/пякéльная спёка

**opt** [ɒpt] *v.* выбіра́ць, аддава́ць перава́гу; *You may opt for one opinion or another.* Вы можаце аддаць перавагу аднаму меркаванню ці другому.

**opt in** [ˌɒpt'ɪn] *phr.v.* далуча́цца (*да чаго-н.*); выка́звацца на кары́сць (*чаго-н.*)

**opt out** [ˌɒpt'aʊt] *phr.v.* не пры́маць удзе́л, ухіля́цца (*ад удзелу ў чым-н.*); уніка́ць (*чаго-н.*)

**optic** ['ɒptɪk] *adj.* во́чны, зро́кавы; **the optic nerve** зро́кавы нерв

**optical** ['ɒptɪkl] *adj.* апты́чны, зро́кавы; **an optical illusion** апты́чны падма́н, ілю́зія зро́ку; **an optical microscope** апты́чны мікраско́п

**optician** [ɒp'tɪʃn] *n.* о́птык; **the optician's** о́птыка (*крама*)

**optics** ['ɒptɪks] *n.* о́птыка (*раздзел фізікі*)

**optimism** ['ɒptɪmɪzəm] *n.* аптымі́зм; **be full of optimism for the future** быць по́ўным аптымі́зму нако́нт бу́дучыні; з аптымі́змам глядзе́ць у бу́дучыню

**optimist** ['ɒptɪmɪst] *n.* аптымі́ст; аптымі́стка; **an incurable optimist** невыле́чны аптымі́ст

**optimistic** [ˌɒptɪ'mɪstɪk] *adj.* **(about)** аптымісты́чны

**optimistically** [ˌɒptɪ'mɪstɪkli] *adv.* аптымісты́чна

**optimum** ['ɒptɪməm] *adj.* аптыма́льны, найбо́льш спрыя́льны; найле́пшы; **optimum conditions** аптыма́льныя ўмо́вы

**option** ['ɒpʃn] *n.* **1.** вы́бар, пра́ва вы́бару; *I had no option but to tell them everything.* У мяне не было іншага выбару, як толькі расказаць ім усё. **2.** прадме́т па вы́бары; факультаты́ўны прадме́т (*у якой-н. навучальнай установе*); *Belarusian is one of the options.* Беларуская мова – адна з моў для вывучэння. ♦ **the soft/easy option** лі́нія найме́ншага супраціўле́ння, пазбяга́нне перашко́д; **keep/leave one's options open** не спяша́цца з рашэ́ннем/вы́барам; пакіда́ць за сабо́й пра́ва вы́бару

**optional** ['ɒpʃənl] *adj.* неабавязко́вы, па вы́бары; **optional subjects at school** факультаты́ўныя прадме́ты ў шко́ле

**opulent** ['ɒpjələnt] *adj. fml* **1.** бага́ты, замо́жны, раско́шны; **opulent villas** раско́шныя ві́лы (*пра загарадныя дамы*) **2.** пы́шны, бага́ты, густы́; **opulent vegetation** пы́шная раслі́ннасць

**or** [ɔ:, ə] *conj.* ці, або́, альбо́; *Is he going or not?* Дык ён ідзе ці не?; **for a day or two** на па́ру дзён, на дзень-другі́; **without help or advice** без пара́ды і (без) дапамо́гі; **or so** прыблі́зна, не́шта каля́ (гэ́тага); *It costs 10 pence or so.* Гэта каштуе каля дзесяці пенсаў; **or else** а то (іна́чай), іна́кш; *Hurry up or else we'll be late.* Хутчэй, а то спознімся.

**oral** ['ɔ:rəl] *adj.* **1.** ву́сны; сло́ўны, на сло́вах; **an oral examination** ву́сны экза́мен **2.** ара́льны, ро́тавы; **oral hygiene** гігіе́на ро́тавай по́ласці

**orange**[1] ['ɒrɪndʒ] *n.* **1.** апельсі́н; **orange juice** апельсі́навы сок; **orange peel** апельсі́навая лупі́на **2.** ара́нжавы ко́лер ♦ **apples and oranges** абсалю́тна ро́зныя/непараўна́льныя (*людзі, рэчы, даныя, з'явы*)

**orange**[2] ['ɒrɪndʒ] *adj.* ара́нжавы

**orang-utan** [ɔ:ˌræŋu:'tæn] *n. zool.* арангута́н

**orator** ['ɒrətə] *n. fml* ара́тар, прамо́ўца

**oratory**[1] ['ɒrətri] *n.* красамо́ўства, прамо́ўніцкае майстэ́рства

**oratory**[2] ['ɒrətri] *n.* каплі́ца

**orbit**[1] ['ɔ:bɪt] *n.* **1.** арбі́та; **in orbit** на арбі́це; **put into orbit** выво́дзіць на арбі́ту **2.** сфе́ра дзе́йнасці

**orbit**[2] ['ɔ:bɪt] *v.* ру́хацца/круці́цца па арбі́це; *This satellite will orbit Mars.* Гэты спадарожнік будзе рухацца вакол Марса.

**orbital** ['ɔ:bɪtl] *adj.* арбіта́льны; які́ ру́хаецца па арбі́це; **an orbital road** кальцава́я даро́га

**orchard** ['ɔ:tʃəd] *n.* фрукто́вы сад; **an apple orchard** я́блыневы сад

**orchestra** ['ɔ:kɪstrə] *n.* **1.** арке́стр; **a string orchestra** стру́нны арке́стр; **a symphony orchestra** сімфані́чны арке́стр **2.** *AmE* **the orchestra** партэ́р

**orchestra pit** ['ɔ:kɪstrəpɪt] *n.* арке́стр, арке́стравая я́ма

**orchestrate** ['ɔ:kɪstreɪt] *v.* **1.** аркестрава́ць, інструментава́ць **2.** размяркóўваць, арганізо́ўваць, размяшча́ць у пэ́ўным пара́дку (*вельмі акуратна і часам сакрэтна*)

**orchid** ['ɔ:kɪd] *n. bot.* архідэ́я

**ordain** [ɔ:'deɪn] *v.* **1.** пасвяча́ць (*у духоўны сан*) **2.** *fml* прадпі́сваць, вызнача́ць у заканада́ўчым пара́дку; прадвызнача́ць; *Fate had ordained that she would never see London again.* Ёй было наканавана ніколі больш не ўбачыць Лондан.

**ordeal** [ɔ:'di:l, 'ɔ:di:l] *n.* суро́вае выпрабава́нне; **go through a terrible ordeal** прайсці́ праз ця́жкае выпрабава́нне

**order**[1] ['ɔ:də] *n.* **1.** пара́дак, паслядо́ўнасць; размяшчэ́нне (*у пэўным парадку*); **in alphabetical/chronological order** у алфаві́тным/храналагі́чным пара́дку; **in order of importance** па ступе́ні ва́жнасці; **in reverse order** у адваро́тным пара́дку; **put smth. in order** прыво́дзіць што-н. у пара́дак, пара́дкаваць **2.** пара́дак, спако́й, заве́дзены пара́дак; **call smb. to order** заклі́каць каго-н. да пара́дку; **law and order** праварапа́радак **3.** зага́д, распа-

раджэ́нне; інстру́кцыя; **give an/the order** аддава́ць зага́д; **obey orders** падпарадко́ўвацца зага́ду, слу́хацца зага́ду; *I'm under orders to arrest him.* Мне загадана арыштаваць яго **4.** зака́з; **put in an order for smth.** рабі́ць зака́з на што-н., зака́зваць што-н.; **have smth. on order** заказа́ць што-н. (*і чакаць выканання заказу*); **take smb.'s order** прыма́ць чый-н. зака́з; **made to order** зро́блены на зака́з **5.** чэк, вэ́ксаль; **money/postal order** грашо́вы/пашто́вы перavо́д **6.** о́рдэн (*рэлігійны*); **a monastic order** о́рдэн мана́хаў, мана́скі о́рдэн; **the order of Jesuits** о́рдэн езуі́таў **7.** спра́ўнасць, до́бры стан; **in good order** у до́брым ста́не; цэ́лы, спра́ўны, непашко́джаны; **in running/working order** у до́брым/спра́ўным ста́не, прыго́дны для карыста́ння, гато́вы да эксплуата́цыі; **out of order** няспра́ўны, сапсава́ны ♦ **in order to** *fml* для таго́ каб; **in order that** *fml* з тым каб; **take (holy) orders** станаві́цца святаро́м, прыма́ць духо́ўны сан; **Order! Order!** Про́сім захо́ўваць пара́дак!; Да пара́дку! (*напр., падчас пасяджэння*)

**order²** [ˈɔːdə] *v.* **1.** зага́дваць, распараджа́цца; *She was ordered out of the room.* Ёй загадалі выйсці з пакоя. **2.** зака́зваць; **order dinner** зака́зваць абе́д **3.** *fml* прыво́дзіць у пара́дак; **order one's thoughts** прыво́дзіць у пара́дак свае́ ду́мкі

**order about/around** [ˌɔːdəəˈbaʊt/ˌɔːdəəˈraʊnd] *phr.v.* кама́ндаваць, распараджа́цца; *He is always ordering people around.* Ён увесь час усімі камандуе.

**orderly¹** [ˈɔːdəli] *n.* **1.** санітар **2.** ардына́рац

**orderly²** [ˈɔːdəli] *adj.* **1.** аха́йны, акура́тны; *His room is always orderly.* У яго пакоі заўсёды прыбрана. **2.** дысцыплінава́ны, арганізава́ны; спако́йны; *The crowd was quite orderly.* Натоўп паводзіў сябе даволі мірна.

**ordinal¹** [ˈɔːdɪnl] *n.* пара́дкавы ліча́бнік

**ordinal²** [ˈɔːdɪnl] *adj.* пара́дкавы; **an ordinal number** пара́дкавы ліча́бнік

**ordinance** [ˈɔːdɪnəns] *n. fml* ука́з, дэкрэ́т

**ordinarily** [ˈɔːdnrəli] *adv.* звыча́йна; звыча́йным шлёхам

**ordinary** [ˈɔːdnri] *adj.* звыча́йны, сярэ́дні; **ordinary people** про́стыя лю́дзі ♦ **in the ordinary way** *BrE* пры звыча́йных абста́вінах/умо́вах; **out of the ordinary** незвыча́йны; не абы-які́; *He's no ordinary man.* Ён незвычайны чалавек.

**ordination** [ˌɔːdɪˈneɪʃn] *n.* пасвячэ́нне ў духо́ўны сан

**ore** [ɔː] *n.* руда́; **iron ore** жале́зная руда́

**organ** [ˈɔːgən] *n.* **1.** о́рган (*у розных знач.*); **the organs of speech** о́рганы маўле́ння (*язык, зубы, губы і да т.п.*); **the internal organs** уну́траныя о́рганы; **the reproductive organs** о́рганы размнажэ́ння **2.** *mus.* арга́н; **an electric organ** электраарга́н; **a barrel organ** катры́нка; **a mouth organ** губны́ гармо́нік **3.** *fml* о́рган, устано́ва; **the organs of government** ура́давыя о́рганы **4.** *fml* друкава́ны о́рган (*газета, часопіс*); **the organs of public opinion** (друкава́ныя) о́рганы грама́дскай ду́мкі

**organic** [ɔːˈgænɪk] *adj.* аргані́чны (*у розных знач.*); **organic vegetables** натура́льная гаро́дніна (*якую вырошчвалі без хімікатаў*); **organic farming** аргані́чнае земляро́бства (*з прымяненнем арганічных угнаенняў*); **organic matter** аргані́чнае рэ́чыва, рэ́чыва аргані́чнага пахо́джання; **organic diseases** аргані́чныя захво́рванні; **an organic whole** адзі́нае цэ́лае

**organism** [ˈɔːgənɪzəm] *n.* аргані́зм; **a living organism** жывы́ аргані́зм; **the social organism** грама́дства

**organization,** *BrE* **-isation** [ˌɔːgənaɪˈzeɪʃn] *n.* **1.** арганіза́цыя; **student organizations** студэ́нцкія арганіза́цыі; **the World Health Organization** Сусве́тная арганіза́цыя ахо́вы здаро́ўя **2.** арганіза́цыя, арганізава́насць; *His work lacks organization.* Яго працы нестае арганізаванасці.

**organize,** *BrE* **-ise** [ˈɔːgənaɪz] *v.* **1.** арганізо́ўваць, ствара́ць; ла́дзіць; **organize a protest march** арганізо́ўваць марш пратэ́сту; **organize a party** ствара́ць па́ртыю **2.** арганізо́ўваць, прыво́дзіць у пара́дак; сістэматызава́ць; **organize one's time** арганізо́ўваць свой час

**organizer,** *BrE* **-iser** [ˈɔːgənaɪzə] *n.* арганіза́тар; **the organizers of a strike** арганіза́тары забасто́ўкі

**orgasm** [ˈɔːgæzəm] *n.* арга́зм; **achieve/reach orgasm** дасягну́ць арга́зму

**orgy** [ˈɔːdʒi] *n.* **1.** о́ргія, разгу́л; **a drunken orgy** п'я́нка, папо́йка **2. (of)** хва́ля, усплёск, усп́ышка; **an orgy of crime** вы́бух злачы́ннасці

**Orient** [ˈɔːriənt] *n.* **the Orient** *lit.* Усхо́д, краі́ны Усхо́ду; **spices from the Orient** во́стрыя прыпра́вы з Усхо́ду

**orient** [ˈɔːrient] *v.* **1. (to/towards)** арыентава́ць; *Our policy is oriented to the prevention of cruelty to animals.* Наша палітыка арыентавана на прадухіленне жорсткага абыходжання з жывёламі. **2. (oneself)** арыентава́цца; вызнача́ць месцазнахо́джанне па ко́мпасе; **orient oneself in the fog** вызнача́ць месцазнахо́джанне ў тума́не

**Oriental¹** [ˌɔːriˈentl] *n. dated, derog.* жыха́р Усхо́ду
**oriental²** [ˌɔːriˈentl] *adj.* усхо́дні; **oriental languages** усхо́днія мо́вы; **oriental culture** усхо́дняя культу́ра
**orientate** [ˈɔːriənteɪt] *BrE* = **orient**
**orientation** [ˌɔːriənˈteɪʃn] *n.* арыента́цыя, арыенціро́ўка, арыентава́нне
**origami** [ˌɒrɪˈɡɑːmi] *n.* арыга́мі
**origin** [ˈɒrɪdʒɪn] *n.* **1.** пахо́джанне, выто́к, кры-ні́ца; **a word of unknown origin** сло́ва невядо́мага пахо́джання **2.** пахо́джанне (*пра прыналежнасць па нараджэнні да якой-н. нацыі, класа, саслоўя*); **of humble origin** нязна́тнага/про́стага пахо́джання
**original¹** [əˈrɪdʒənl] *n.* **1.** арыгіна́л, аўтэ́нтык (*пра дакументы, мастацкія творы*); **read smth. in the original** чыта́ць што-н. у арыгіна́ле **2.** арыгіна́л, дзіва́к; арыгіна́лка, дзіва́чка
**original²** [əˈrɪdʒənl] *adj.* **1.** пе́ршы; першапачатко́вы; **the original inhabitants** спрадве́чныя жыхары́; **the original meaning of the word** першапачатко́вае значэ́нне сло́ва **2.** арыгіна́льны, тво́рчы, све́жы; **an original artist** самабы́тны маста́к; **an original idea** арыгіна́льная/све́жая ду́мка **3.** арыгіна́льны, аўтэнты́чны; **an original manuscript** арыгіна́льны ру́капіс; **original sin** першаро́дны грэх
**originality** [əˌrɪdʒəˈnæləti] *n.* арыгіна́льнасць, самабы́тнасць
**originally** [əˈrɪdʒənəli] *adv.* першапачатко́ва, спача́тку, спярша́; *His father originally comes from Australia.* Яго бацька родам з Аўстраліі.
**originate** [əˈrɪdʒɪneɪt] *v. fml* **1.** узніка́ць, браць піча́так, пахо́дзіць; *How did the fire originate?* Як узнік пажар? **2.** дава́ць пача́так (*чаму-н.*), параджа́ць; ствара́ць; *She originated a new fashion.* Яна ўвяла новую моду.
**originator** [əˈrɪdʒɪneɪtə] *n. fml* ініцыя́тар; а́ўтар; ствара́льнік, вынахо́днік; а́ўтар; ствара́льніца, вынахо́дніца
**ornament¹** [ˈɔːnəmənt] *n. fml* **1.** аздабле́нне, упрыгажэ́нне, убо́р; **Christmas tree ornaments** ёлачныя аздабле́нні/ца́цкі **2.** арна́мент
**ornament²** [ˈɔːnəmənt] *v. fml* **(with)** упрыго́жваць, убіра́ць, аздабля́ць
**ornamental** [ˌɔːnəˈmentl] *adj.* арнамента́льны, дэкараты́ўны; які́ слу́жыць упрыгажэ́ннем/аздабле́ннем; **an ornamental plant** дэкараты́ўная раслі́на
**ornate** [ɔːˈneɪt] *adj.* **1.** бага́та ўбра́ны/прыбра́ны/аздо́блены **2.** напы́шлівы, прыўзня́та квяці́сты; мудрагелі́сты; **an ornate style** напы́шлівы стыль
**ornithology** [ˌɔːnɪˈθɒlədʒi] *n.* арнітало́гія
**orphan** [ˈɔːfn] *n.* сірата́; *He was left an orphan at the age of seven.* У сем гадоў ён застаўся сіратой.
**orphanage** [ˈɔːfənɪdʒ] *n.* дзіця́чы дом, прыту́лак для сіро́т
**orthodox** [ˈɔːθədɒks] *adj.* **1.** артадакса́льны; агульнапрыня́ты, традыцы́йны **2.** прававе́рны **3. Orthodox** правасла́ўны
**Orthodox Church** [ˌɔːθədɒksˈtʃɜːtʃ] *n.* **the Orthodox Church** правасла́ўная царква́
**orthoepy** [ˈɔːθəʊepi] *n. ling.* арфаэ́пія
**orthography** [ɔːˈθɒɡrəfi] *n. fml* арфагра́фія, пра́вапіс
**orthopaedic** [ˌɔːθəˈpiːdɪk] *adj. BrE* артапеды́чны
**orthopaedics** [ˌɔːθəˈpiːdɪks] *n. BrE* артапеды́я
**oscillate** [ˈɒsɪleɪt] *v.* **1.** *fml* хіста́цца, вага́цца; **oscillate between two opinions** вага́цца памі́ж двума́ меркава́ннямі **2.** *phys.* асцылі́раваць, хіста́цца, вібры́раваць
**ostensible** [ɒˈstensəbl] *adj.* уя́ўны, паказны́; які́ слу́жыць падста́вай/прычы́най; **an ostensible purpose** афіцы́йная мэ́та
**ostentation** [ˌɒstenˈteɪʃn] *n. derog.* выстаўле́нне напака́з, выхваля́нне, хвальба́
**osteoporosis** [ˌɒstiəʊpəˈrəʊsɪs] *n. med.* астэапаро́з (*разрэджванне касцявога рэчыва*)
**ostracize,** *BrE* **-ise** [ˈɒstrəsaɪz] *v. fml* падвярга́ць астракі́зму, выганя́ць з грама́дства
**ostrich** [ˈɒstrɪtʃ] *n.* **1.** *zool.* стра́ус **2.** *infml* чалаве́к, які́ займа́ецца самападма́нам, заплю́шчвае во́чы на небяспе́ку, бяжы́ць ад складанасцей ♦ **ostrich policy** стра́усавая палі́тыка, баязлі́вае імкне́нне ўхілі́цца ад прыня́цця рашэ́нняў
**other** [ˈʌðə] *pron.* **1.** другі́, яшчэ́ (адзі́н); **each other** адзі́н аднаго́; *Where are the others?* Дзе астатнія? **2.** другі́, і́ншы; **in other words** іна́чай ка́жучы ♦ **the other day** гэ́тымі дня́мі, на гэ́тых днях; няда́ўна, не так даўно́; **every other day** праз дзень, ко́жныя два дні; **none other than** ніхто́ і́ншы як; **no one other than she** ніхто́, акрамя́ яе́; *I don't know any French people other than you.* У мяне няма іншых французскіх знаёмых, акрамя цябе.
**otherwise** [ˈʌðəwaɪz] *adv., conj.* **1.** іна́кш, іна́чай, па-і́ншаму; *He thinks otherwise.* Ён думае па-другому. **2.** у аста́тнім, акрамя́ гэ́тага; *He's stubborn, but otherwise a nice chap.* Ён вельмі ўпарты, але наогул добры хлопец. **3.** іна́кш; а то; у адваро́тным вы́падку; *Do it now, otherwise it will be too late.* Зрабі гэта зараз, а то будзе позна.
**otter** [ˈɒtə] *n. zool.* вы́дра

**ouch** [aʊtʃ] *interj.* ай!; вой! (*выражае боль*)

**ought** [ɔːt] *modal v.* **1. :** *выражае неабходнасць, маральны абавязак*; *She ought to come.* Яна павінна прыйсці; *Such things ought not to be allowed in our society.* Такія з'явы недапушчальныя ў нашым грамадстве. **2. :** *з перфектным інфінітывам выражае шкадаванне, папрок*; *You ought to have agreed.* Вам трэба было згадзіцца. **3. :** *выражае меркаванне, дапушчэнне*; *They ought to be there by now.* Зараз яны, верагодна, ужо там.

**ounce** [aʊns] *n.* ýнцыя (*28,35 г*); **an ounce of tobacco** ýнцыя тытуню́; *If he had an ounce of common sense, he'd apologize to her.* Калі б у яго была хоць кропля здаровага розуму, ён папрасіў бы ў яе прабачэння.

**our** [aʊə, ɑː] *pron.* наш; свой; *Is this our bus?* Гэта наш аўтобус?; *We came in our own car.* Мы прыехалі на сваёй машыне; *We raised our hands.* Мы паднялі рукі; **Our Father** Ойча наш

**ours** [ˈaʊəz, ɑːz] *pron.* наш; **a friend of ours** наш ся́бар; *These seats are ours.* Гэтыя месцы нашы.

**ourselves** [ˌaʊəˈselvz, ɑːˈselvz] *pron.* **1.** сябé; *We saw ourselves on television.* Мы бачылі сябе па тэлевізары. **2.** сáмі; *We built the house* (*all by*) *ourselves.* Мы пабудавалі дом самі; *We had the restaurant all to ourselves.* У нашым распараджэнні быў цэлы рэстаран.

**oust** [aʊst] *v. fml* **(from)** выцясня́ць (*каго-н.*); вымушáць пайсці́ (*з пасады*), займáць чыё-н. мéсца; **oust the government from power** пазбаўля́ць улáды/звяргáць ура́д

**out** [aʊt] *adv.*, *prep.* **1.** па-за, звóнку, знадвóрку (*паказвае на знаходжанне па-за межамі*); *We are dining out to-night.* Мы сёння абедаем не дома; *He is out.* Яго няма. **2.** з, вон, надвóр (*паказвае на рух за якія-н. межы*); **go/run/jump out** вы́йсці/вы́бегчы/вы́скачыць; *Out you go!* Вон адгэтуль!; *She leapt out of bed.* Яна ўскочыла з ложка. **3.** (*паказвае на матэрыял, з якога зроблены прадмет*) з; **made out of glass** зрóблены са шкла, шкляны́ **4.** (*паказвае на адсутнасць чаго-н.*) без; **out of breath** зады́ханы, запы́ханы; **be out of work** застáцца без прáцы, быць беспрацóўным; *We are out of bread.* У нас кончыўся хлеб. **5.** з-за, з прычы́ны; **out of grief/joy** з гóра/рáдасці **6.** (*паказвае на суадносіны часткі і цэлага*) з; **5 students out of 12** пяць студэ́нтаў з дванáццаці **7. :** *паказвае на з'яўленне, выхад чаго-н.*; *The sun is out.* Сонца ўзышло; *My new book is out.* Выйшла мая новая кніга. **8. :** *паказвае на заканчэнне, выключэнне ці знікненне чаго-н.*; *The fire is out.* Агонь патух; *Lights out!* Тушыце святло! ♦ **out of it** *infml* не ў сваёй талéрцы; нязру́чна, няёмка (*адчуваць сябе*); **be out for smth.** імкну́цца да чагó-н.; **be out to do smth.** збірáцца зрабíць што-н.; ***Out with it!*** Ну, у чым справа?!; *The roses* ***are out.*** Ружы распусціліся; *She* ***was out*** *for more than 10 minutes.* Яна была ў непрытомнасці больш за дзесяць хвілін.

**outbreak** [ˈaʊtbreɪk] *n.* успы́шка; раптóўны пачáтак ; **an outbreak of cholera/violence** успы́шка халéры/насíлля; **an outbreak of hostilities** пачáтак ваéнных дзéянняў; **the outbreak of war in the Middle East** пачáтак вайны́ на Блíжнім Усхóдзе

**outburst** [ˈaʊtbɜːst] *n.* **1.** вы́бух, успы́шка (*эмоцый*); **an outburst of anger/indignation** успы́шка гнéву/абурэ́ння; **an outburst of applause** вы́бух апладысмéнтаў **2.** усплёск; **an outburst of energy** усплёск энéргіі

**outcast** [ˈaʊtkɑːst] *n.* выгнáннік, пáрыя; выгнáнніца

**outcome** [ˈaʊtkʌm] *n.* вы́нік, зыхóд; *They are confident of a successful outcome.* Яны ўпэўнены ў паспяховым зыходзе.

**outcrop** [ˈaʊtkrɒp] *n. geol.* агалéнне парóды, вы́хад парóды на павéрхню; агóленая парóда

**outcry** [ˈaʊtkraɪ] *n.* **(at/over/against)** крык рóспачы/адчáю; гнéўны пратэ́ст; *The new law provoked a public outcry.* Прыняцце новага закона выклікала абурэнне грамадскасці.

**outdated** [ˌaʊtˈdeɪtɪd] *adj.* устарэ́лы, састарэ́лы; **outdated methods** устарэ́лыя мéтады

**outdoor** [ˈaʊtdɔː] *adj.* вóнкавы, знадвóрны; якíя знахóдзіцца па-за дóмам, на вóльным павéтры; **outdoor clothing** вéрхняе адзéнне; вóпратка; **outdoor games** гýльні на вóльным павéтры

**outdoors** [ˌaʊtˈdɔːz] *adv.* на вóльным павéтры, на дварэ́; *It's warm outdoors.* На дварэ цёпла.

**outer** [ˈaʊtə] *adj.* **1.** вóнкавы, знéшні; **the outer layer of the skin** знéшні/павéрхневы слой скýры, эпідэ́рміс **2.** аддáлены (*ад цэнтра*); **the outer rooms** крáйнія пакóі; **the outer suburbs of the city** далёкія прадмéсці гóрада

**outermost** [ˈaʊtəməʊst] *adj.* найбóльш аддáлены ад цэ́нтра/сярэ́дзіны; **the outermost planet** найбóльш аддáленая/сáмая далёкая планéта

**outer space** [ˌaʊtəˈspeɪs] *n.* кóсмас, касмíчная прастóра (*за межамі зямной атмасферы*)

**outfit** [ˈaʊtfɪt] *n.* **1.** адзéнне, касцю́м (*спецыяльнага прызначэння*); **a skiing outfit** лы́жны касцю́м; **a wedding outfit** шлю́бны ўбор **2.** *infml*

каманда, кампанія, група (*людзей, якія працуюць разам*) **3.** абсталяванне, апаратура, набор інструментаў

**outgoing** [ˈaʊtɡəʊɪŋ] *adj.* **1.** таварыскі, дружалюбны; спагадлівы, чулы; **an outgoing personality** ужыўчывы/таварыскі чалавек, лёгкі чалавек/характар **2.** які ідзе ў адстаўку; **the outgoing president** прэзідэнт, тэрмін якога на пасту заканчваецца **3.** выхадны; **outgoing phone calls** выхадныя тэлефонныя званкі

**outgrew** [ˌaʊtˈɡruː] *past* → **outgrow**

**outgrow** [ˌaʊtˈɡrəʊ] *v.* (**outgrew, outgrown**) **1.** перарастаць; вырастаць (*з адзежы*) **2.** пазбаўляцца з узростам (*шкоднай звычкі, захаплення*)

**outgrown** [ˌaʊtˈɡrəʊn] *p.p.* → **outgrow**

**outing** [ˈaʊtɪŋ] *n.* прагулка, экскурсія, пікнік; **go on an outing to the park** адпраўляцца на прагулку ў парк

**outlast** [ˌaʊtˈlɑːst] *v.* пратрымацца даўжэй (*за каго-н.*); перажыць (*каго-н., што-н.*)

**outlaw** [ˈaʊtlɔː] *n.* **1.** асоба, аб'яўленая па-за законам **2.** выгнаннік, ізгой; выгнанніца

**outlay** [ˈaʊtleɪ] *n.* **(on)** выдаткі, затраты; *This project requires little financial outlay.* Гэты праект патрабуе нязначных грашовых выдаткаў.

**outlet** [ˈaʊtlet] *n.* **(for) 1.** аддушына, выхад; **an outlet for children's energy** выхад дзіцячай энергіі **2.** *comm.* гандлёвая кропка (*кіёск, крама і да т.п.*); спецыялізаваная крама; фірменная крама; **a retail outlet for exotic fish** рознічная крама экзатычных рыбак **3.** выпускная адтуліна, сцёк; **a sewage outlet** памыйны сцёк

**outline** [ˈaʊtlaɪn] *n.* **1.** схема, план, канспект; **an outline for a composition** план сачынення; **in outline** у агульных рысах, коратка **2.** контур, абрыс

**outlive** [ˌaʊtˈlɪv] *v.* перажыць (*у розных знач.*); *She outlived her husband by five years.* Яна перажыла мужа на пяць гадоў; *The washing machine had outlived its usefulness.* Гэтая пральная машына выйшла з ужытку.

**outlook** [ˈaʊtlʊk] *n.* **1. (on)** погляд; пункт гледжання; **an outlook on life** погляд на рэчы/жыццё **2. (for)** перспектыва, меркаванні/планы на будучыню; **the outlook for the harvest** разлікі на ўраджай; **the outlook for Wednesday** прагноз надвор'я на сераду **3.** від, перспектыва; **a very pleasing outlook from the window** вельмі прыгожы від з акна

**outlying** [ˈaʊtlaɪɪŋ] *adj.* аддалены, далёкі; **outlying areas** аддаленыя раёны

**outnumber** [ˌaʊtˈnʌmbə] *v.* перавышаць колькасна

**out of date** [ˌaʊtəvˈdeɪt] *adj.* **1.** устарэлы, старамодны **2.** несапраўдны, пратэрмінаваны

**out-of-the-way** [ˌaʊtəvðəˈweɪ] *adj.* **1.** аддалены, далёкі **2.** *BrE* дзіўны; незвычайны

**out-of-work** [ˌaʊtəvˈwɜːk] *adj.* беспрацоўны; **an out-of-work actor** беспрацоўны акцёр

**outpatient** [ˈaʊtpeɪʃnt] *n.* амбулаторны хворы; **an outpatient clinic** паліклініка

**outpost** [ˈaʊtpəʊst] *n.* **1.** аванпост, перадавы вартавы пост **2.** аддаленае паселішча

**output** [ˈaʊtpʊt] *n.* **1.** прадукцыя; выпуск; выпрацоўка; прадукцыйнасць **2.** *comput.* выхадныя даныя, вынікі **3.** *tech.* магутнасць; **an output of 100 watts** магутнасць на выхадзе сто ват

**outrage**[1] [ˈaʊtreɪdʒ] *n.* **1.** абурэнне, гнеў, пачуццё зняважа **2.** парушэнне закона/прыстойнасці; ганьбаванне; **an outrage against humanity** злачынства супраць чалавецтва

**outrage**[2] [ˈaʊtreɪdʒ] *v.* абураць, гнявіць; абражаць; ганьбіць

**outrageous** [aʊtˈreɪdʒəs] *adj.* абуральны, недапушчальны, скандальны; нечуваны (*пра паводзіны, учынкі, манеру апранацца і да т.п.*)

**outright**[1] [ˈaʊtraɪt] *adj.* **1.** канчатковы; абсалютны; катэгарычны; **an outright refusal** рашучая адмова **2.** адкрыты, просты, шчыры

**outright**[2] [ˈaʊtraɪt] *adv.* **1.** адкрыта, проста, шчыра **2.** цалкам, поўнасцю; катэгарычна; наадрэз; *He rejected the offer outright.* Ад прапановы ён рашуча адмовіўся. **3.** неадкладна, адразу, зараз жа; *All victims of the car accident were killed outright.* Усе ахвяры аўтамабільнай аварыі загінулі на месцы.

**outset** [ˈaʊtset] *n.* пачатак ♦ **at the outset** спачатку, упачатку; **from the very outset** з самага пачатку

**outside**[1] [ˌaʊtˈsaɪd] *n.* **the outside** знадворны бок, вонкавая паверхня; **the outside of the house** знадворны бок дома/хаты; **from the outside** знадворку, звонку ♦ **at the outside** самае большае; **on the outside** знешне, з выгляду; звонку

**outside**[2] [ˈaʊtsaɪd] *adj.* **1.** знадворны, вонкавы **2.** знешні, навакольны; **be cut off from the outside world** быць адарваным ад знешняга/навакольнага свету; **without any outside help** без чужой/пабочнай дапамогі

**outside**[3] [ˌaʊtˈsaɪd] *adv.* знадворку, звонку; на дварэ; па-за домам; *It's cold outside.* На дварэ холадна.

**outside**[4] [ˌaʊtˈsaɪd] *prep.* **1.** па-за, за ме́жамі; **outside the door** за дзвяры́ма; **outside the area** за ме́жамі раёна; *There is a bus stop outside our house.* Побач з нашым домам ёсць аўтобусны прыпынак. **2.** акрамя́, апрача́, апро́ч, за выключэ́ннем

**outsider** [ˌaʊtˈsaɪdə] *n.* **1.** пабо́чная асо́ба; чужы́нец; чужані́ца **2.** неспецыялі́ст, непрафесія́нал **3.** *sport* аўтса́йдар

**outsize** [ˈaʊtsaɪz] *adj.* бо́льшы за станда́ртны паме́р, нестанда́ртны; **outsize clothes** адзе́нне вялі́кіх паме́раў

**outskirts** [ˈaʊtskɜːts] *n. pl.* ускра́іна (*горада*); **on the outskirts of Minsk** на ўскра́іне Мі́нска

**outspoken** [aʊtˈspəʊkən] *adj.* шчы́ры, адкры́ты, прамы́

**outstanding** [aʊtˈstændɪŋ] *adj.* **1.** выда́тны, славу́ты, знакамі́ты **2.** нявы́кананы (*пра працу, заданне*); незапла́чаны, нявы́плачаны (*пра грошы*); нявы́рашаны (*пра пытанне, праблему*); *And work is still outstanding.* А працы яшчэ – непачаты край.

**outstretched** [ˌaʊtˈstretʃt] *adj.* вы́цягнуты, праця́гнуты; **meet with outstretched arms** сустрака́ць сардэ́чна/ра́дасна/ве́тліва; **with outstretched wings** з распасцёртымі/распраста́нымі кры́ламі

**outstrip** [ˌaʊtˈstrɪp] *v.* **1.** перасяга́ць, перавыша́ць; *Demand is outstripping supply.* Попыт перавышае прапанаванне. **2.** абганя́ць, пераганя́ць, апярэ́джваць, выпярэ́джваць

**outward** [ˈaʊtwəd] *adj.* зне́шні, во́нкавы; **judging by outward appearance** мярку́ючы па зне́шнім/во́нкавым вы́глядзе, мярку́ючы па зне́шнасці; **the outward voyage** падаро́жжа за мяжу́

**outwardly** [ˈaʊtwədli] *adv.* зне́шне, во́нкава, з вы́гляду; *Outwardly he remained calm.* Знешне ён заставаўся спакойным.

**outwards** [ˈaʊtwədz] *adv. BrE* наве́рх, за ме́жы

**outweigh** [ˌaʊtˈweɪ] *v.* перава́жваць, быць больш уплыво́вым/зна́чным; *The advantages outweighed the disadvantages.* Пераваг было больш, чым недахопаў.

**outwit** [ˌaʊtˈwɪt] *v.* перахітры́ць, абхітры́ць

**oval** [ˈəʊvl] *adj.* ава́льны; **an oval face** ава́льны твар

**ovation** [əʊˈveɪʃn] *n.* ава́цыя, бу́рныя во́плескі/апладысме́нты

**oven** [ˈʌvn] *n.* духо́ўка

**over**[1] [ˈəʊvə] *adv.* **1.** праз, це́раз (*паказвае на рух цераз што-н., пераход з вертыкальнага становішча ў гарызантальнае*); **knock smth. over** праку́льваць, абаро́чваць што-н.; **turn the page over** перагарну́ць старо́нку **2. :** *паказвае на знаходжанне на якім-н. баку ці перамяшчэнне на другі бок пакоя, вуліцы і да т.п.*; *He rowed us over to the other side of the river.* Ён пераправіў нас на другі бераг ракі; **over here/there** тут/там **3.** скрозь, спрэс (*паказвае на пашырэнне, распаўсюджванне па ўсёй тэрыторыі*); **hills covered over with snow** узго́ркі скрозь пакры́тыя сне́гам **4.** больш, звыш; залі́шне; **girls of 13 and over** дзяўчы́нкі трына́ццаці гадо́ў і старэ́йшыя **5.** зноў, яшчэ́ раз; **do smth. over** перарабля́ць што-н. **6. :** *паказвае на заканчэнне ці спыненне дзеяння*; *The lecture is over.* Лекцыя скончылася; **think/talk over** праду́маць/абмеркава́ць, абгавары́ць; **look over** аглéдзець ♦ **(all) over again** зноў, яшчэ́ раз, на́нава; з пача́тку да канца́; **over and over (again)** зноў, не раз, не адзі́н раз, неаднаразо́ва, шмат разо́ў

**over**[2] [ˈəʊvə] *prep.* **1.** (*паказвае на ўзаемнае размяшчэнне прадметаў*) над, на; **over the table** над стало́м; *The robber put his hand over Amanda's mouth to stop her from screaming.* Рабаўнік заціснуў рот Аманды рукой, каб яна перастала лямантаваць. **2.** (*паказвае на размяшчэнне ўпоперак ці па другі бок чаго-н.*) це́раз, праз, за; **a bridge over the river** мост це́раз раку́; **jump over a wall** пераско́кваць це́раз сцяну́ **3.** (*паказвае на рух ці распаўсюджванне па якой-н. паверхні*) па; **all over** усю́ды, скрозь, спрэс; **all over the world** па ўсі́м све́це **4.** (*паказвае на колькаснае перавышэнне*) звыш, больш; *He is over 60.* Яму за шэсцьдзясят. **5.** (*паказвае на прамежак часу, на працягу якога адбываецца дзеянне*) за, на праця́гу; **over the whole period** за ўвесь перы́яд; *We'll discuss it over breakfast.* Мы абмяркуем гэта за снеданнем. **6. :** *паказвае на пераадоленне цяжкасцей, хваробы і да т.п.*; **get over a shock** адысці́/ачу́цца ад шо́ку **7.** (*паказвае на крыніцу, сродак*) па, праз; *I heard it over the radio.* Я чуў гэта па радыё. **8.** (*паказвае на прадмет думкі, спрэчкі і да т.п.*) аб, пра, адно́сна, што даты́чыцца; **an argument over money** спрэ́чка з-за гро́шай ♦ **over and above** апрача́ таго́, акрамя́ таго́, да таго́ ж

**overall**[1] [ˈəʊvərɔːl] *n. BrE* **1.** рабо́чы хала́т **2.** *pl.* **overalls** камбінезо́н (*для працы*)

**overall**[2] [ˌəʊvərˈɔːl] *adj.* по́ўны, агу́льны; **an overall impression** агу́льнае ўра́жанне; **build up an overall picture of the situation** уяўля́ць агу́льную карці́ну сітуа́цыі

**overawe** [ˌəʊvərˈɔː] *v.* выклiка́ць пачуццё мо́цнага стра́ху (по́ўнага глыбо́кай паша́ны); *Mike was overawed by the director's booming voice.* Грамавы голас дырэктара нагнаў страху на Майка.

**overbalance** [ˌəʊvəˈbæləns] *v.* стра́цiць раўнава́гу (i ўпа́сцi); вы́вепсцi з раўнава́гi; *He overbalanced and fell into the mud.* Ён страцiў раўнавагу i паваліўся ў гразь.

**overboard** [ˈəʊvəbɔːd] *adv.* за борт; за бо́ртам; *Man overboard!* Чалавек за бортам! ♦ **throw smth./smb. overboard** адмаўля́цца ад каго́-н./чаго́-н.; пераства́ць падтры́млiваць каго́-н./што-н.

**overcame** [ˌəʊvəˈkeɪm] *past* → **overcome**

**overcast** [ˌəʊvəˈkɑːst] *adj.* хма́рны, пахму́рны, хму́рны

**overcoat** [ˈəʊvəkəʊt] *n.* палiто́

**overcome** [ˌəʊvəˈkʌm] *v.* **(overcame, overcome) 1.** перамага́ць, пераадо́льваць **2.** аго́ртваць, апано́ўваць, ахо́плiваць (*звыч. пра пачуццi*); *He was overcome by grief.* Яго агарнула гора.

**overcrowded** [ˌəʊvəˈkraʊdɪd] *adj.* перапо́ўнены

**overdid** [ˌəʊvəˈdɪd] *past* → **overdo**

**overdo** [ˌəʊvəˈduː] *v.* **(overdid, overdone) 1.** перабо́льшваць, перавялíчваць, утры́раваць **2.** перастара́цца, перабiра́ць (ме́ру), передава́ць; *Don't overdo the salt in the soup!* Не перасольвайце суп! **3.** перава́рваць; перапяка́ць; перасма́жваць (*пра мяса*); пераскв́арваць (*пра сала*); перапра́жваць (*пра каву, семкi i да т.п.*) ♦ **overdo it/things** перататмля́цца, перанапру́жвацца; перапрацо́ўваць; перабiра́ць ме́ру

**overdone**[1] [ˌəʊvəˈdʌn] *adj.* перава́раны; перапе́чаны; перасма́жаны (*пра мяса*); пераскв́араны (*пра сала*); перапра́жаны (*пра каву, семкi i да т.п.*)

**overdone**[2] [ˌəʊvəˈdʌn] *p.p.* → **overdo**

**overdose** [ˈəʊvədəʊs] *n.* празме́рная до́за, перадазiро́ўка (*лякарства, наркотыку*)

**overdrive** [ˈəʊvədraɪv] *n.* **: go into overdrive** рэ́зка актывiзава́цца, пачына́ць напру́жана працава́ць; ху́тка iсцí ўгару́ (*пра справы, кар'еру*)

**overdue** [ˌəʊvəˈdjuː] *adj.* **1.** якí затры́млiваецца; запо́знены, по́знi; **an overdue baby** перано́шанае дзiця́; *The train is 20 minutes overdue.* Цягнiк спазняецца на 20 хвiлiн; *Economic reforms in this country were long overdue.* У гэтай краiне ўжо даўно трэба было правесцi эканамiчныя рэформы. **2.** пратэрмiнава́ны

**overestimate** [ˌəʊvərˈestɪmeɪt] *v.* пераацэ́ньваць, перабо́льшваць; **overestimate one's abilities** перабо́льшваць свае́ здо́льнасцi; *The importance of these papers cannot be overestimated.* Важнасць гэтых дакументаў нельга пераацанiць.

**overflow**[1] [ˈəʊvəfləʊ] *n.* **1.** перапаўне́нне, перацiва́нне це́раз край; *There is an overflow from the cistern.* Цыстэрна ўжо перапоўнiлася; **an overflow of emotions** паўната́ пачу́ццяў **2.** разлíў, паво́дка **3.** празме́рнасць

**overflow**[2] [ˌəʊvəˈfləʊ] *v.* перапаўня́ць; пералiва́цца це́раз край; разлiва́цца, затапля́ць; *The barrel is overflowing.* З бочкi ўжо цераз край льецца; *The river overflows its banks.* Рака выходзiць з берагоў; *His heart overflowed with kindness.* Яго сэрца перапаўняла дабрыня.

**overgrown** [ˌəʊvəˈgrəʊn] *adj.* **1.** якí разро́сся; якí расце́ без до́гляду; паро́слы, заро́слы; **overgrown with nettles** заро́слы крапiво́й **2.** пераро́слы; **an overgrown schoolboy** пераро́слы шко́льнiк

**overhang** [ˌəʊvəˈhæŋ] *v.* **(overhung)** вытырка́цца, выступа́ць; зве́швацца; навiса́ць

**overhaul**[1] [ˈəʊvəhɔːl] *n.* ува́жлiвы/пíльны агля́д; рамо́нт; *The engine needs a complete overhaul.* Матор неабходна цалкам перабраць.

**overhaul**[2] [ˌəʊvəˈhɔːl] *v.* **1.** ува́жлiва аглядáць/правяра́ць (*з мэтай рамонту*); раманта́ваць **2.** дагана́ць, нагана́ць

**overhead**[1] [ˈəʊvəhed] *adj.* **1.** паве́траны, надзе́мны, падве́сны; **an overhead railway** надзе́мная чыгу́нка **2.** *comm.* накладны́; **overhead costs** накладны́я выда́ткi

**overhead**[2] [ˌəʊvəˈhed] *adv.* над галаво́й, угары́, у вышынí, у не́бе

**overhear** [ˌəʊvəˈhɪə] *v.* **(overheard)** падслу́хваць; выпадко́ва/незнаро́к чуць (*размову*); **overhear snatches of conversation** уры́ўкамi чуць размо́ву

**overheard** [ˌəʊvəˈhɜːd] *past, p.p.* → **overhear**

**overheat** [ˌəʊvəˈhiːt] *v.* **1.** пераграва́ць, перапа́льваць; пераграва́цца, перапа́львацца; *The engine is overheating again.* Матор зноў пераграецца. **2.** развiва́ць экано́мiку празме́рна высо́кiмi тэ́мпамi

**overhung** [ˌəʊvəˈhʌŋ] *past, p.p.* → **overhang**

**overjoyed** [ˌəʊvəˈdʒɔɪd] *adj.* шчаслíвы, ве́льмi задаво́лены/ра́ды; **be overjoyed at news** быць задаво́леным навíнамi; *Mark was overjoyed to see us.* Марк не помнiў сябе ад радасцi, калi ўбачыў нас.

**overland** [ˈəʊvəlænd] *adj.* сухапу́тны; якí ца́лкам цi бо́льшай ча́сткай прахо́дзiць па су́шы; **an overland route** сухапу́тны маршру́т, шлях па су́шы

**overlap** [ˌəʊvəˈlæp] *v.* **1.** частко́ва пакрыва́ць, перакрыва́ць; *These planks must overlap.* Гэтыя планкі павінны заходзіць адна за адну. **2.** частко́ва супада́ць; *His visit and mine overlapped.* Мы былі там амаль адначасова.

**overleaf** [ˌəʊvəˈliːf] *adv. fml* на адваро́тным баку́ старо́нкі/а́ркуша/ліста́; **see overleaf** глядзі́ на адваро́це/адваро́тным баку́

**overload** [ˌəʊvəˈləʊd] *v.* перагружа́ць, нагружа́ць празме́рна (*чым-н.*); **overload a lorry** перагружа́ць грузаві́к; **overload with work** перагружа́ць пра́цай; *Don't overload the electrical system by using too many kitchen appliances.* Не ўключайце надта многа кухонных прыбораў, каб не перагружаць электрычную сістэму.

**overlook** [ˌəʊvəˈlʊk] *v.* **1.** не заўважа́ць, прапуска́ць, прагле́дзець; *I overlooked that possibility.* Я прагледзеў гэтую магчымасць. **2.** не звярта́ць ува́гі, ігнарава́ць, глядзе́ць праз па́льцы **3.** выхо́дзіць на/у (*пра вокны*); *The window overlooks the bay.* Акно выходзіць на заліў.

**overnight**[1] [ˈəʊvənaɪt] *adj.* **1.** начны́; **an overnight journey** начно́е падаро́жжа **2.** які́ адбыва́ецца ра́птам/нечака́на; вокамгне́нны; *The book was an overnight success.* Кніга мела нечаканы поспех.

**overnight**[2] [ˌəʊvəˈnaɪt] *adv.* **1.** на ноч; за ноч; уначы́; **stay overnight** начава́ць **2.** *infml* ра́птам, ура́з; нечака́на, нспадзява́на; *He became famous overnight.* Ён прачнуўся славутым.

**overplay** [ˌəʊvəˈpleɪ] *v.* **1.** перабіра́ць ме́ру, залі́шне стара́цца, перастара́цца; пераі́грываць **2.** надава́ць празме́рнае значэ́нне, разду́ваць ♦ **overplay one's hand** пераацэ́ньваць свае́ здо́льнасці/магчы́масці, захо́дзіць на́дта далёка, перахо́дзіць дазво́леныя ме́жы

**overpopulation** [ˌəʊvəˌpɒpjuˈleɪʃn] *n.* перанасе́ленасць, перанасяле́нне

**overpower** [ˌəʊvəˈpaʊə] *v.* адо́льваць, перамага́ць, асі́льваць; **overpower an opponent** перамага́ць праці́ўніка

**overran** [ˌəʊvəˈræn] *past* → **overrun**

**overrate** [ˌəʊvəˈreɪt] *v.* пераацэ́ньваць, перабо́льшваць; **overrate one's abilities** пераацэ́ньваць свае́ здо́льнасці

**overridden** [ˌəʊvəˈrɪdn] *p.p.* → **override**

**override** [ˌəʊvəˈraɪd] *v.* **(overrode, overridden) 1.** адхіля́ць, не браць пад ува́гу, не прыма́ць; **override smb.'s authority** не прызнава́ць чый-н. аўтарытэ́т **2.** перава́жваць, браць верх

**overriding** [ˌəʊvəˈraɪdɪŋ] *adj.* гало́ўны, першара́дны, раша́ючы, выраша́льны; **the overriding factor** выраша́льны фа́ктар; фа́ктар першара́днага значэ́ння

**overrode** [ˌəʊvəˈrəʊd] *past* → **override**

**overrule** [ˌəʊvəˈruːl] *v.* адхіля́ць; ануліява́ць, лічы́ць несапра́ўдным, адмяня́ць; **overrule a decision** касава́ць рашэ́нне

**overrun** [ˌəʊvəˈrʌn] *v.* **(overran, overrun) 1.** ху́тка распаўсю́джвацца; ахо́пліваць; напаўня́ць; перапліва́цца це́раз край; **overrun with mice** (кішма́) кішэ́ць мыша́мі **2.** перахо́дзіць ме́жы; перавыша́ць вы́значаны тэ́рмін; *You've overrun your time by 5 minutes.* Вы перавысілі рэгламент на пяць хвілін.

**oversaw** [ˌəʊvəˈsɔː] *past* → **oversee**

**overseas** [ˌəʊvəˈsiːz] *adj.* заmо́рскі, заакія́нскі; заме́жны, іншазе́мны; **overseas students** заме́жныя студэ́нты; **overseas territories** замо́рскія тэрыто́рыі; **overseas trade** зне́шні га́ндаль

**oversee** [ˌəʊvəˈsiː] *v.* **(oversaw, overseen)** нагляда́ць, назіра́ць, сачы́ць; ажыццяўля́ць нагля́д (*каб усё было зроблена правільна*); **oversee work** нагляда́ць за пра́цай

**overseen** [ˌəʊvəˈsiːn] *p.p.* → **oversee**

**overshadow** [ˌəʊvəˈʃædəʊ] *v.* **1.** адкі́дваць цень, зацяня́ць (*таксама перан.*); *The rose bush was overshadowed by large trees.* Куст руж зацянялі вялікія дрэвы; *She was always overshadowed by her husband.* Яна заўсёды знаходзілася ў цяні свайго мужа. **2.** азмро́чваць (*падзею, настрой, перамогу і да т.п.*)

**overshoot** [ˌəʊvəˈʃuːt] *v.* **(overshot) 1.** праляце́ць мі́ма цэ́лі (*пра кулю*), прамахну́цца; прайсці́/прае́хаць/праляце́ць дале́й запланава́нага; *The aircraft overshot the runway.* Самалёт прызямліўся за пасадачнай паласой. **2.** перавыша́ць, перасяга́ць; **overshoot the mark** узя́ць вышэ́й/дале́й за цэль

**overshot** [ˌəʊvəˈʃɒt] *past, p.p.* → **overshoot**

**oversight** [ˈəʊvəsaɪt] *n.* **1.** недагля́д, памы́лка, про́мах; *The error was due to oversight.* Памылка была дапушчана па недаглядзе. **2.** *fml* кантро́ль, нагля́д

**oversimplify** [ˌəʊvəˈsɪmplɪfaɪ] *v.* празме́рна спрашча́ць; разуме́ць залі́шне спро́шчана

**oversized** [ˈəʊvəsaɪzd] *adj.* бо́льшага, чым звыча́йна, паме́ру, празме́рна вялі́кага паме́ру, аб'ёму

**oversleep** [ˌəʊvəˈsliːp] *v.* **(overslept)** прасыпа́ць; *I overslept and was late for the lecture.* Я праспаў і спазніўся на лекцыю.

**overslept** [ˌəʊvəˈslept] *past, p.p.* → **oversleep**

**overstate** [ˌəʊvəˈsteɪt] *v.* перабо́льшваць, перавялі́чваць; **overstate one's case** перабо́льшваць, дапуска́ць перабо́льшанне пры аргумента́цыі

**overstay** [ˌəʊvəˈsteɪ] *v.* **1.** затры́млівацца (*надта доўга*), засе́джвацца **2.** пратэрміно́ўваць ♦ **overstay one's welcome** загасцява́цца; злоўжыва́ць гасці́ннасцю, надакуча́ць гаспадара́м

**overstep** [ˌəʊvəˈstep] *v.* перахо́дзіць мяжу́; **overstep one's authority** перавыша́ць свае́ паўнамо́цтвы ♦ **overstep the mark/line** выхо́дзіць за ме́жы дазво́ленага, перахо́дзіць ме́жы; захо́дзіць на́дта далёка

**overt** [əʊˈvɜːt] *adj. fml* адкры́ты, публі́чны; несакрэ́тны

**overtake** [ˌəʊvəˈteɪk] *v.* **(overtook, overtaken) 1.** даганя́ць, абганя́ць **2.** ахапля́ць, апано́ўваць; *The woman was overtaken by fear.* Жанчыну апанаваў страх.

**overtaken** [ˌəʊvəˈteɪkən] *p.p.* → **overtake**

**overthrew** [ˌəʊvəˈθruː] *past* → **overthrow**

**overthrow**[1] [ˈəʊvəθrəʊ] *n.* скіда́нне, звяржэ́нне (*цара, урада, самаўладства і да т.п.*); **the overthrow of the dictator** звяржэ́нне дыкта́тара

**overthrow**[2] [ˌəʊvəˈθrəʊ] *v.* **(overthrew, overthrown)** скіда́ць, звярга́ць, зрына́ць; **overthrow a government** звярга́ць ура́д

**overthrown** [ˌəʊvəˈθrəʊn] *p.p.* → **overthrow**

**overtime** [ˈəʊvətaɪm] *n.* звышуро́чная пра́ца; **overtime pay** звышуро́чныя; пла́та за звышуро́чную пра́цу; **be on overtime** працава́ць звышуро́чна

**overtone** [ˈəʊvətəʊn] *n.* **1.** *mus.* аберто́н **2.** *звыч. pl.* но́тка, намёк, падтэ́кст; **political overtones** паліты́чны падтэ́кст

**overtook** [ˌəʊvəˈtʊk] *past* → **overtake**

**overture** [ˈəʊvətʃʊə] *n.* **1.** *mus.* уверцю́ра **2.** *звыч. pl.* спро́ба (*прымірэння, завязвання знаёмства*); ініцыяты́ва (*перамоваў, заключэння дагавораў і да т.п.*); **make overtures to smb.** рабі́ць кро́кі да прымірэ́ння, спрабава́ць пасяброва́ць з кім-н.

**overturn** [ˌəʊvəˈtɜːn] *v.* **1.** перакý́льваць, абаро́чваць; перакý́львацца, абаро́чвацца; *The boys overturned the boat.* Хлопчыкі перакулілі лодку. **2.** абвярга́ць; касава́ць

**overview** [ˈəʊvəvjuː] *n.* бе́глы агля́д, агу́льныя зве́сткі

**overweight** [ˌəʊvəˈweɪt] *adj.* які́ ва́жыць больш за но́рму, гру́зны (*пра чалавека*)

**overwhelm** [ˌəʊvəˈwelm] *v.* **1.** апано́ўваць (*пра пачуцці, эмоцыі*); *He was overwhelmed by grief.* Ён быў ахоплены горам. **2.** адо́льваць, перамага́ць, асі́льваць; разбіва́ць (*ворага*) **3.** заліва́ць, затапля́ць; зава́льваць (*таксама перан.*); **overwhelm with requests** закі́дваць про́сьбамі

**overwhelming** [ˌəʊvəˈwelmɪŋ] *adj.* **1.** незлічо́ны; вялі́кі, велізá́рны; **overwhelming wealth** незлічо́нае бага́цце; **overwhelming disaster** велізá́рнае няшча́сце **2.** перава́жны; **an overwhelming majority** перава́жная бо́льшасць

**overwork** [ˌəʊvəˈwɜːk] *v.* зана́дта мно́га працава́ць,ператамля́цца;ператамля́ць каго́-н.; **overwork oneself**ператамля́цца; **overwork a horse** загна́ць/зае́здзіць каня́

**overwrought** [ˌəʊvəˈrɔːt] *adj.* ве́льмі ўсхваля́ваны/узру́шаны; які́ нерву́ецца; у нерво́вым ста́не

**owe** [əʊ] *v.* **1.** быць вінава́тым, завінава́ціцца; *How much do I owe you?* Колькі я вам вінаваты? **2.** быць абавя́заным; *He owes everything to his mother.* Ён усім абавязаны маці.

**owing** [ˈəʊɪŋ] *adj.* які́ заста́ўся неапла́чаным; *There is still £5 owing.* Неабходна заплаціць яшчэ пяць фунтаў.

**owing to** [ˈəʊɪŋtə] *prep.* таму́ што, з-за, праз, з прычы́ны; **owing to illness** з-за хваро́бы; *I couldn't come owing to another engagement.* Я не мог прыйсці, таму што быў заняты.

**owl** [aʊl] *n.* сава́

**own**[1] [əʊn] *adj., pron.* свой; ула́сны; *She has money of her own.* У яе ёсць свае грошы; **see smth. with one's own eyes** ба́чыць што-н. на свае́ во́чы ♦ **(all) on one's own** сам, без дапамо́гі; адзі́н; **come into one's own** атрыма́ць нале́жнае, дабі́цца свайго́; атрыма́ць прызна́нне, уступа́ць у свае́ правы́; **get one's own back on smb.** *infml* разлі́чвацца/квіта́цца з кім-н.; **hold one's own** стая́ць на сваі́м; *The patient is holding his own.* Пацыент змагаецца з хваробай.

**own**[2] [əʊn] *v.* **1.** вало́даць; улада́ць, мець; *Who owns this house?* Хто гаспадар гэтага дома? *He behaves as if he owns the place.* Ён паводзіць сябе так, нібыта ён тут гаспадар. **2.** *dated* прызнава́цца, прызнава́ць; **own a child** прызнава́ць сваё бацько́ўства; *They owned (that) they were wrong.* Яны прызналі, што памыліліся.

**own up** [ˌəʊnˈʌp] *phr.v.* прызнава́цца (*у чым-н.*); *She owned up to telling lies.* Яна прызналася, што сказала няпраўду.

**owner** [ˈəʊnə] *n.* ўлада́льнік, гаспада́р, ўлада́р; ўлада́льніца, гаспады́ня, ўлада́рка; *This car should be returned to its rightful owner.* Гэтую машыну належыць вярнуць законнаму ўладальніку.

**ownership** [ˈəʊnəʃɪp] *n.* **1.** ула́снасць, пра́ва ўла́снасці **2.** вало́данне, ўлада́нне

**ox** [ɒks] *n.* (*pl.* **oxen**) вол

**p.c.** [ˌpiːˈsiː] (*скар. ад* **postcard**) паштóўка

**p.d.q.** [ˌpiːdiːˈkjuː] (*скар. ад* **pretty damn/damned quick**) як магá хутчэ́й

**PE** [ˌpiːˈiː] *n.* (*скар. ад* **Physical Education**) фізíчная адукáцыя, фізкультýра

**pea** [piː] *n.* гарóх, гарóшына; **green peas** зялёны гарóшак; **sweet peas** духмя́ны гарóшак; **pea soup** гарóхавы суп ♦ **as like as two peas** ≅ як дзве крóплі вады́

**peace** [piːs] *n.* **1.** мір; **peace talks/negotiations** мíрныя перагавóры **2.** грамáдскі парáдак **3.** спакóй, супакóй, цішыня́; **peace of mind** душэ́ўны спакóй ♦ **make one's peace with smb.** памíрыцца з кім-н.

**Peace Corps** [ˈpiːsˌkɔː] *n. AmE* **the Peace Corps** «кóрпус мíру»

**peaceful** [ˈpiːsfəl] *adj.* мíрны, спакóйны; **a peaceful day** цíхі дзень; **a peaceful protest** мíрны пратэ́ст; **a peaceful demonstration** мíрная дэманстрáцыя; **a peaceful solution** мíрнае рашэ́нне праблéмы; **peaceful nations** міралюбíвыя нарóды

**peacefully** [ˈpiːsfəli] *adv.* мíрна

**peacekeeper** [ˈpiːsˌkiːpə] *n.* вартавы́ мíру, абарóнца

**peacekeeping** [ˈpiːsˌkiːpɪŋ] *adj.* які́ (што) падтры́млівае мір

**peacemaker** [ˈpiːsˌmeɪkə] *n.* прымíры́цель, міратвóрац

**peacetime** [ˈpiːstaɪm] *n.* мíрны час

**peach** [piːtʃ] *n.* пéрсік

**peachy** [ˈpiːtʃi] *adj.* пéрсікавы (*пра колер*)

**peacock** [ˈpiːkɒk] *n.* паўлíн ♦ **as proud as a peacock** ≅ фанабэ́рысты як пéвень

**peacock blue** [ˌpiːkɒkˈbluː] *n.* пералíвісты сíні кóлер

**peahen** [ˈpiːhən] *n.* сáмка паўлíна, пáва

**peak**[1] [piːk] *n.* **1.** пік, востраканцóвая вяршы́ня; **mountain peaks** вяршы́ні гор **2.** вышэ́йшы пункт; **at the peak of glory** на вяршы́ні слáвы; **at the peak of one's career** у рóсквіце твóрчых сіл

**peak**[2] [piːk] *adj.* максімáльны; рэкóрдны; найвышэ́йшы; **peak load** максімáльная нагрýзка

**peak**[3] [piːk] *v.* **1.** дасягáць; *In 1950 Chicago's population peaked at about 3.6 million.* Насельніцтва Чыкага дасягнула 3,6 мільёна ў 1950 годзе. **2.** дасягнýць апагéя (*славы, улады і да т.п.*); дасягнýць пóўнага рóсквіту **3.** абвастрáць; акцэнтавáць; **heighten and peak contradictions** узмацня́ць і абвастрáць супярэ́чнасці

**peaked** [ˈpiːkt] *AmE* = **peaky**

**peak time** [ˌpiːkˈtaɪm] *n. BrE* час, калí максімáльная кóлькасць гледачóў глядзя́ць перадáчы

**peaky** [ˈpiːki] *adj. BrE, infml* змарнéлы, блéдны, хваравíты з вы́гляду

**peal**[1] [piːl] *n.* **1.** звон званóў **2.** грýкат, гул (*грому, апладысментаў, навальніцы і да т.п.*); **a peal of laughter** вы́бух смéху

**peal**[2] [piːl] *v.* **1.** званíць **2.** грымéць, гучáць; *A loud clap of thunder pealed overhead.* Моцна ўдарыў гром.

**peanut** [ˈpiːnʌt] *n.* земляны́ арэ́х, арáхіс; **a packet of salted peanuts** пакéцік салёнага арáхісу

**peanut butter** [ˌpiːnʌtˈbʌtə] *n.* арáхісавая пáста

**peanut oil** [ˌpiːnʌtˈɔɪl] *n.* арáхісавы алéй

**pear** [peə] *n.* **1.** (і)грýша **2.** *bot.* грýшавае дрэ́ва

**pearl** [pɜːl] *n.* жамчýжына, жэ́мчуг; **a string of pearls** нíтка жэ́мчугу ♦ **cast/throw pearls before swine** сы́паць бíсер (пéрлы) пéрад свíннямі

**pearly** [ˈpɜːli] *adj.* жамчýжны; які́ нагáдвае жэ́мчуг; **pearly white teeth** беласнéжныя зýбы

**Pearly Gates** [ˌpɜːliˈgeɪts] *n.* **the Pearly Gates** *hum.* варóты рáю

**pear-shaped** [ˈpeəʃeɪpt] *adj.* грушападóбны ♦ **go pear-shaped** *BrE, infml* прымáць дрэ́нны кірýнак

**peasant** [ˈpeznt] *n.* **1.** селянíн; **an individual peasant** селянíн-аднаасóбнік **2.** *infml, derog.* дзеравéншчына, мужы́к, хам

**peasantry** [ˈpezntri] *n.* сяля́нства

**pease pudding** [ˌpiːzˈpʊdɪŋ] *n. BrE* гарóхавы пýдынг

**pea-souper** [ˌpiːˈsuːpə] *n. BrE, infml* густы́ тумáн

**peat** [piːt] *n.* торф

**pebble** [ˈpebl] *n.* галы́ш, гáлька ♦ **not the only pebble on the beach** ≅ свет клíнам не сышóўся

**pebbly** [ˈpebli] *adj.* пакры́ты галышóм

**peck**[1] [pek] *n.* **1.** дзяўбóк **2.** *infml* лёгкі пацалýнак

**peck**[2] [pek] *v.* **1. (at)** дзяўбцí **2.** *infml* лёгенька пацалавáць ♦ **a/the pecking order** *infml* неафіцы́йная іерáрхія; сфарміравáны пры́нцып падпарáдкаванасці

**peck at** [ˌpekˈæt] *phr.v.* малá éсці

**pectin** [ˈpektɪn] *n. chem.* пекцíн

**peculiar** [pɪˈkjuːliə] *adj.* **1.** незвычáйны, дзíўны; *She gave me a peculiar look.* Яна нейк дзіўна на мяне паглядзела. **2. (to)** (свое)асаблíвы, уласцíвы, характэ́рны; **humour peculiar to the English** гýмар, уласцíвы англічáнам

**peculiarity** [pɪˌkjuːliˈærəti] *n.* **1.** (свое)асаблíвасць; *The lack of a written constitution is a peculiarity of the British political system.* Адсутнасць напісанай канстытуцыі з'яўляецца

асаблівасцю брытанскай палітычнай сістэмы. **2.** дзі́ўнасць

**peculiarly** [pɪˈkjuːliəli] *adv.* **1.** асаблі́ва; больш, чым звыча́йна **2.** асабі́ста, індывідуа́льна; выклю́чна

**pedagogue** [ˈpedəɡɒɡ] *n. fml* наста́ўнік, педаго́г

**pedal**[1] [ˈpedl] *n.* педа́ль; *One of the pedals on my bike has broken.* Адна педаль у маім веласіпедзе зламалася.

**pedal**[2] [ˈpedl] *v.* **1.** націска́ць на педа́ль **2.** е́хаць на веласіпе́дзе; **pedal a bicycle across the fields** е́хаць на веласіпе́дзе праз по́ле

**pedant** [ˈpednt] *n.* педа́нт

**pedantic** [pɪˈdæntɪk] *adj.* педанты́чны

**peddle** [ˈpedl] *v.* **1.** гандлява́ць уразно́с **2.** плятка́рыць, развóдзіць плёткі

**peddler** [ˈpedlə] *n.* **1.** *BrE* гандля́р нарко́тыкамі **2.** *AmE* = **pedlar**

**pederast** [ˈpederæst] *n. fml* педэра́ст

**pedestal** [ˈpedɪstl] *n.* фунда́мент, падму́рак (*калоны*); п'едэста́л ♦ **put/place smb. on a pedestal** ста́віць каго́-н. на п'едэста́л, пакланя́цца каму́-н.; узно́сіць, расхва́льваць каго́-н.

**pedestrian**[1] [pəˈdestriən] *n.* пешахо́д

**pedestrian**[2] [pəˈdestriən] *adj.* пешахо́дны

**pedestrian crossing** [pəˌdestriənˈkrɒsɪŋ] *n. BrE* пешахо́дны перахо́д

**pedestrian mall** [pəˌdestrɪənˈmɔːl] *n. AmE* = **pedestrian precinct**

**pedestrian precinct** [pəˌdestrɪənˈpriːsɪŋkt] *n. BrE* раён або́ ву́ліца то́лькі для пешахо́даў

**pediatrician** [ˌpiːdiəˈtrɪʃn] *AmE* = **paediatrician**

**pediatrics** [ˌpiːdiˈætrɪks] *AmE* = **paediatrics**

**pediculosis** [pɪˌdɪkjuˈləʊsɪs] *n. med.* педыкулёз, вашы́васць

**pedicure** [ˈpedɪkjʊə] *n.* педыкю́р

**pedigree** [ˈpedɪɡriː] *n.* **1.** радасло́ўная, генеало́гія; паро́да **2.** пахо́джанне; этымало́гія (сло́ва)

**pedlar** [ˈpedlə] *n. BrE* ву́лічны гандля́р

**pee**[1] [piː] *n. infml* мача́

**pee**[2] [piː] *v.* **(peed)** *infml* мачы́цца

**peed** [piːd] *past, p.p.* → **pee**[2]

**peek**[1] [piːk] *n. infml* по́гляд крадко́м/упо́тай(кі), бы́стры по́зірк

**peek**[2] [piːk] *v.* **1.** зазірну́ць (*унутр*); выгля́дваць (*адкуль-н.*) **2.** гля́нуць, зірну́ць

**peel**[1] [piːl] *n.* шалупа́йка, скары́нка; шалупі́нне, лупі́ны, скары́нкі; **candied peel** цука́т; **orange peel** апельсі́навая шалупі́на

**peel**[2] [piːl] *v.* **1.** абіра́ць, лупі́ць; аблу́пліваць, адлу́пліваць; **peel a banana/an apple/a potato** абіра́ць/чы́сціць бана́н/я́блык/бу́льбу **2.** зла́зіць, абла́зіць, лупі́цца; *My skin always peels (off) when I have been in the sun.* Калі я бываю на сонцы, мая скура заўсёды лупіцца.

**peel off** [ˌpiːlˈɒf] *phr.v.* зніма́ць, здыма́ць; *He peeled off his clothes and dived.* Ён скінуў з сябе адзежу і нырнуў.

**peelings** [ˈpiːlɪŋz] *n. pl.* лупі́ны, шалупі́нне

**peep** [piːp] *v.* **1.** загля́дваць, зазіра́ць **2.** падгля́дваць, падгляда́ць; *I caught him peeping through the keyhole.* Я злавіў яго, калі ён падглядаў у замочную шчыліну. **3.** выгля́дваць

**peephole** [ˈpiːphəʊl] *n.* во́чка (*у дзвярах*)

**peer**[1] [pɪə] *n.* **1.** ро́ўны, раўня́ **2.** пэр (*у Брытаніі*)

**peer**[2] [pɪə] *v.* угляда́цца, узіра́цца

**peevish** [ˈpiːvɪʃ] *adj.* **1.** сварлі́вы; раздражня́льны; злаcлі́вы **2.** капры́зны; **a peevish child** капры́знае дзіця́

**peg** [peɡ] *n.* **1.** ве́шалка; кручо́к ве́шалкі **2.** прышчэ́пка для бялі́зны

**pejorative** [pɪˈdʒɒrətɪv] *adj. ling.* зневажа́льны (*пра словы*)

**Pekinese** (таксама **Pekingese**) [ˌpiːkɪˈniːz] *n. zool.* (*pl.* **Pekinese** *or* **Pekineses**) кітайскі мопс, пекінэ́с

**Peking duck** [ˌpiːkɪŋˈdʌk] *n. zool.* пекі́нская ка́чка

**pelican** [ˈpelɪkən] *n. zool.* пеліка́н

**pelt**[1] [pelt] *n.* **1.** шку́ра **2.** ску́ра

**pelt**[2] [pelt] *n.* **1.** кі́данне, шпурля́нне **2.** мо́цны ўдар **3.** стук дажджу́ альбо́ гра́ду

**pelt**[3] [pelt] *v.* **1.** кі́даць, шпурля́ць; закі́дваць (*каго-н. чым-н.*) **2. (with)** накі́двацца, напада́ць (*на каго-н. з чым-н.*) **3. (down)** сту́каць, бараба́ніць (*пра дождж, град і да т.п.*)

**pelvis** [ˈpelvɪs] *n. anat.* **1.** таз **2.** ны́рачная лаха́нка

**pen** [pen] *n.* ру́чка; пяро́; **a ballpoint (pen)** ша́рыкавая ру́чка; **a fountain pen** аўтару́чка; **a felt-tip pen** флама́стар ♦ **put pen to paper** узя́цца за пяро́

**penal** [ˈpiːnl] *adj.* кара́льны (*законам*); крымі-на́льны; **a penal code** крымі́на́льны ко́дэкс

**penalty** [ˈpenəlti] *n.* **1. (for)** пакара́нне, спагна́нне; **the death penalty** пакара́нне сме́рцю **2.** штраф; **a penalty clause** пункт аб штра́фе за невыкана́нне дагаво́ра; **a penalty kick** *sport* штрафны́ ўдар; **the penalty area** *sport* штрафна́я пляцо́ўка **3.** адмо́ўны бок (*чаго-н.*) ♦ **pay the penalty** распла́чвацца; не́сці цяжа́р (*славы, адказнасці і да т.п.*)

**penance** [ˈpenəns] *n.* **1.** *relig.* **(for)** епіты́м'я, пакая́нне **2.** раска́янне

**pence** [pens] *n. BrE pl.* → **penny**

**pencil**[1] [ˈpensl] *n.* ало́вак; **in pencil** (напі́саны) ало́ўкам; *Should I sign my name in pencil or*

*ink?* Я павінен напісаць сваё імя алоўкам або чарнілам?

**pencil²** [ˈpensl] *v.* напіса́ць ало́ўкам; *Mark pencilled a note to his wife.* Марк напісаў алоўкам запіску жонцы.

**pencil case** [ˈpensl̩ˌkeɪs] *n.* пена́л

**pendant** [ˈpendənt] *n.* падве́ска; куло́н

**pendulum** [ˈpendjələm] *n.* ма́ятнік (*таксама перан.*); **the pendulum of public opinion** «хіста́нне ма́ятніка» (*змена грамадскай думкі на процілеглую*)

**penetrate** [ˈpenɪtreɪt] *v.* **1.** праніка́ць; прайма́ць; прані́зваць; *A ray of light penetrated the room.* Прамень святла пранік у пакой. **2.** разуме́ць, спасціга́ць; **penetrate into the secrets of nature** спасціга́ць таямні́цы пры́роды

**penetrating** [ˈpenɪtreɪtɪŋ] *adj.* **1.** мо́цны, во́стры; **(a) penetrating pain** во́стры боль; **a penetrating smell** мо́цны пах **2.** прані́клівы, во́стры; прані́злівы; **a penetrating look** прані́клівы по́зірк; **penetrating mind** во́стры ро́зум; **a penetrating sound** прані́злівы гук; **a penetrating voice** прані́злівы го́лас; **a penetrating wind** прані́злівы ве́цер

**penetration** [ˌpenɪˈtreɪʃn] *n.* **1.** праніка́нне; пранікне́нне **2.** прані́клівасць

**penetrative** [ˈpenɪtrətɪv] *adj.* праніка́льны

**penfriend** [ˈpenfrend] *n. BrE* ся́бар па перапі́сцы; сябро́ўка па перапі́сцы

**penguin** [ˈpeŋgwɪn] *n. zool.* пінгві́н

**penicillin** [ˌpenɪˈsɪlɪn] *n. pharm.* пеніцылі́н

**peninsula** [pəˈnɪnsjələ] *n.* паўво́страў

**penis** [ˈpiːnɪs] *n. anat.* мужчы́нскі палавы́ член

**penknife** [ˈpennaɪf] *n.* (*pl.* **penknives**) сцізо́рык

**penname** [ˈpenneɪm] *n.* псеўдані́м

**penniless** [ˈpeniləs] *adj.* які́ не ма́е ні капе́йкі, безграшо́вы, бе́дны на гро́шы; *She was left penniless.* Яна засталася без капейкі.

**penny** [ˈpeni] *n.* (*pl.* **pence** – *пра суму грошай*; **pennies** – *пра асобныя манеты*) пе́ні, пенс (*манета*); **a new penny** (адзі́н) но́вы пенс; *I have no pennies.* У мяне няма пенсаў; **a few pence** не́калькі пе́ні; **a 13-pence stamp** пашто́вая ма́рка ко́штам 13 пе́нсаў; *It costs 6 pence.* Гэта каштуе 6 пенсаў. ♦ **a pretty penny** кру́глая су́ма; *It cost him a pretty penny.* Гэта ўляцела яму ў капеечку; **not a penny** ні капе́йкі

**penny bank** [ˈpenɪˌbænk] *n.* **1.** ашча́дны банк **2.** скарбо́нка

**pen pal** [ˈpenpæl] *n. AmE* = **penfriend**

**pension** [ˈpenʃn] *n.* пе́нсія; **the old age pension** пе́нсія па ўзро́сце; **live on a pension** жыць з пе́нсіі; **a pension fund** пенсі́йны фонд

**pensioner** [ˈpenʃnə] *n.* пенсіяне́р; пенсіяне́рка; **an old age pensioner** пенсіяне́р(ка) па ўзро́сце

**pentagon** [ˈpentəgən] *n.* **1.** *math.* пяцівуго́льнік **2. the Pentagon** Пентаго́н, міністэ́рства абаро́ны ЗША

**pentathlon** [penˈtæθlən] *n. sport* пяцібо́р'е; **modern pentathlon** суча́снае пяцібо́р'е; **winter pentathlon** зімо́вае пяцібо́р'е

**Pentecost** [ˈpentɪkɒst] *n. eccl.* Пяцідзяся́тніца, Тро́йца, Сёмуха

**people¹** [ˈpiːpl] *n.* **1.** *pl.* лю́дзі; **most people** бо́льшасць людзе́й; **young/old people** мо́ладзь/ стары́я **2.** (*pl.* **peoples**) наро́д, на́цыя; **the peoples of Africa** наро́ды А́фрыкі

**people²** [ˈpiːpl] *v.* насяля́ць; запаўня́ць людзьмі́

**pepper¹** [ˈpepə] *n.* пе́рац; **peppers stuffed with meat and rice** фаршырава́ны мя́сам і ры́сам пе́рац

**pepper²** [ˈpepə] *v.* **1.** пе́рчыць, пасыпа́ць пе́рцам **2.** абсыпа́ць, усе́йваць ♦ **pepper smth. with smth.** перасыпа́ць што-н. чым-н.; *His speech was peppered with jokes.* Яго прамова была перасыпана жартамі.

**pepper-and-salt** [ˌpepərəndˈsɔːlt] *adj.* **1.** ко́леру эпе́рцу з со́ллю» (*пра тканіну, валасы*) **2.** з сівізно́ю (*пра валасы*); **a pepper-and-salt beard** барада́ з сівізно́ю

**peppermint** [ˈpepəmɪnt] *n.* мя́та; мя́тная цуке́рка; **a peppermint candy** мя́тны ледзяне́ц

**pepper pot** [ˈpepəˌpɒt] *n.* пе́рачніца

**per** [pɜː] *prep.* у, за, на; **30 miles per hour** 30 міль за гадзі́ну; **7 pounds per person** 7 фу́нтаў на чалаве́ка; *How much do you get per day*? Колькі вы зарабляеце штодзень? ♦ **as per smth.** згі́дна з чым-н.

**perambulator** [pəˈræmbjuleɪtə] *n. BrE, dated* дзіця́чая каля́ска

**per annum** [pərˈænəm] *adv. лацін.* у год; *He earns £ 20,000 per annum.* Ён зарабляе 20 000 фунтаў у год.

**per capita** [pəˈkæpɪtə] *adj. лацін.* на душу́ насе́льніцтва; на чалаве́ка; *Per capita income fell sharply last year.* У мінулым годзе рэзка знізіўся даход на душу насельніцтва.

**perceive** [pəˈsiːv] *v.* **1.** заўважа́ць; *I perceived somebody standing behind me.* Я заўважыў, што хтосьці стаіць за мной. **2.** разуме́ць, усведамля́ць; *I soon perceived my mistake.* Я хутка зразумеў сваю памылку.

**per cent** [pəˈsent] *n.* (*pl.* **per cent** *or* **percent**) працэ́нт; *The price has risen by 10 per cent.* Цана ўзрасла на 10 працэнтаў.

**percentage** [pəˈsentɪdʒ] *n.* працэ́нт, працэ́нтная ко́лькасць; працэ́нтныя адно́сіны; **a high per-**

**centage of students** вялíкая кóлькасць студэ́нтаў

**perception** [pəˈsepʃn] *n.* успрымáнне; *Our perceptions of the world around us are constantly changing.* Наша ўспрыманне навакольнага асяроддзя ўвесь час мяняецца.

**perceptive** [pəˈseptɪv] *adj.* успрымáльны, успры́млівы; **a perceptive woman** успрымáльная жанчы́на

**perch**[1] [pɜːtʃ] *n.* сéдала, курасáдня

**perch**[2] [pɜːtʃ] *v.* садзíцца на сéдала; саджáць на сéдала

**percipient** [pəˈsɪpiənt] *adj.* успры́млівы, успрымáльны

**percolate** [ˈpɜːkəleɪt] *v.* **1.** прасóчвацца, пранікáць скрозь; прахóдзіць **2.** распаўсю́джвацца, ставíцца вядóмым

**percolator** [ˈpɜːkəleɪtə] *n.* кававáрка

**percussion** [pəˈkʌʃn] *n.* **1.** удáр; сутыкнéнне **2.** *mus.* удáрныя музы́чныя інструмéнты **3.** *med.* высту́кванне, перку́сія

**percussionist** [ˌpəˈkʌʃənɪst] *n. mus.* выканáўца на ўдáрных музы́чных інструмéнтах, удáрнік

**per diem** [ˌpɜːˈdiːem] *n. лацін.* су́тачныя (грóшы); падзённая аплáта

**perdition** [pɜːˈdɪʃn] *n. relig.* вéчныя паку́ты

**peregrination** [ˌperəgrɪˈneɪʃn] *n. lit. or hum.* вандравáнне, падарóжжа

**peregrine** [ˈperɪgrɪn] *n. zool.* сóкал

**peremptory** [pəˈremptəri] *adj. fml* безапеляцы́йны

**perennial** [pəˈreniəl] *adj.* **1.** круглагадóвы **2.** пастая́нны, заўсёдны, вéчны; **a perennial problem** вéчная праблéма; **a perennial complaint** пастая́нная скáрга **3.** шматгадóвы (*пра расліны*)

**perfect**[1] [ˈpɜːfɪkt] *n. ling.* **the perfect** (*таксама* **the perfect tense**) перфéкт

**perfect**[2] [ˈpɜːfɪkt] *adj.* **1.** бездакóрны, дасканáлы, ідэáльны; **a perfect performance** выдáтны спектáкль; *It's a perfect day for a picnic.* Цудоўны дзень для пікніка; *He speaks perfect English.* Ён выдатна гаворыць па-англійску; *The weather was perfect.* Надвор'е было цудоўнае; *He is perfect for the role.* Ён ідэальна падыходзіць на гэтую ролю. **2.** пóўны, абсалю́тны; **a perfect stranger** зусíм чужы́ чалавéк **3.** *ling.* перфéктны; **the perfect form** перфéктная фóрма

**perfect**[3] [pəˈfekt] *v.* удасканáльваць; **perfect a method/system of doing smth.** удасканáльваць мéтад/сістэ́му выканáння чагó-н.

**perfection** [pəˈfekʃn] *n.* дасканáласць; *The meat was cooked to perfection.* Мяса было прыгатавана цудоўна.

**perfectionism** [pəˈfekʃənɪzəm] *n.* высóкая патрабавáльнасць да сябé і íншых; імкнéнне дабівáцца дасканáласці ва ўсім (*асабліва ў рабоце*)

**perfectly** [ˈpɜːfɪktli] *adv.* **1.** зусíм, цáлкам; **perfectly well** выдáтна **2.** цудóўна, надзвычáйна; *The suit fitted him perfectly.* Касцюм ідэальна сядзеў на ім.

**perform** [pəˈfɔːm] *v.* **1.** выкóнваць, рабíць; працавáць; **perform an experiment** правóдзіць эксперымéнт; **perform an operation** рабíць аперáцыю; *How is the new machine performing?* Як працуе новая машына? **2.** *theatre, mus.* выкóнваць; *She performed* (*her part*) *very well.* Яна сыграла (сваю ролю) вельмі добра.

**performance** [pəˈfɔːməns] *n.* **1.** выканáнне, выступлéнне; ігрá; **the first performance of the symphony** пéршае выканáнне сімфóніі **2.** спектáкль, канцэ́рт; пакáз **3.** дзéянне, рабóта (*машыны*); *Are you satisfied with the car's performance?* Ці задаволены вы сваёй машынай?

**performer** [pəˈfɔːmə] *n.* **1.** выканáўца **2.** арты́ст, акцёр

**perfume** [ˈpɜːfjuːm] *n.* **1.** вóдар, духмя́насць, прыéмны пах; **the fragrant perfume of the flowers** прыéмны пах квéтак **2.** духí, парфу́ма; *She never wears perfume.* Яна ніколі не карыстаецца духамі.

**perfumery** [pəˈfjuːməri] *n.* **1.** парфумéрыя **2.** парфумéрная спрáва **3.** парфумéрная фáбрыка **4.** парфумéрны магазíн

**perhaps** [pəˈhæps] *adv.* **1.** мóжа, магчы́ма; *Perhaps the weather will change tomorrow.* Магчыма, надвор'е зменіцца заўтра. **2.** калí лáска (*у ветлівай просьбе альбо прапанове*); *Perhaps you would send this letter by e-mail.* Адпраўце мне ліст па імэйл, калі ласка. **3.** (*калі вы нехаця пагаджаецеся зрабіць што-н.*) **:** *You would discuss it with the boss. – Yeah, perhaps.* Абмяркуйце гэта з босам. – Так.

**perigree** [ˈperɪdʒiː] *n. astron.* перыгéй

**peril** [ˈperəl] *n. fml or lit.* (вялíкая) небяспéка; ры́зыка; **in peril** у небяспéцы ♦ **at one's own peril** на свой страх і ры́зыку

**perimeter** [pəˈrɪmɪtə] *n. math.* пerýметр; *Calculate the perimeter of this rectangle.* Вылічы перыметр гэтага прамавугольніка.

**period** [ˈpɪəriəd] *n.* **1.** перы́яд; тэ́рмін; **the postwar period** пасляваéнны перы́яд; **for a short period** на карóткі тэ́рмін **2.** *geol.* эпóха, э́ра; **the Jurassic period** ю́рскі перы́яд **3.** урóк (*у школе, каледжы*) **4.** менструáцыя, мéсячныя

**periodic** [ˌpɪəriˈɒdɪk] *adj.* перыяды́чны; **periodic bouts of depression** перыяды́чныя пры́ступы дэпрэ́сіі

**periodical** [ˌpɪəriˈɒdɪkl] *n.* перыяды́чнае выда́нне; часо́піс; **a weekly periodical** штотыднёвы часо́піс, штотыднёвік

**peripheral** [pəˈrɪfərəl] *adj.* **(to) 1.** *fml* нязна́чны **2.** перыферы́йны; дру́гасны; *The love interest is peripheral to the main plot of the movie.* Любоўная лінія не з'яўляецца галоўнай у сюжэце фільма.

**periphery** [pəˈrɪfəri] *n. fml* перыферы́я; **a residential area on the periphery of the city** жылы́ масі́ў на ўскра́іне го́рада

**periphrase** [ˈperifreɪz] *v.* **1.** перыфразава́ць **2.** гавары́ць перыфра́замі **3.** гавары́ць нязгра́бна і цьмя́на

**periphrasis** [pəˈrɪfrəsɪs] *n.* (*pl.* **-ses**) перыфра́за

**periscope** [ˈperɪskəʊp] *n.* перыско́п

**perish** [ˈperɪʃ] *v.* **1.** *fml or lit.* гі́нуць; *Almost a hundred people perished in the fire.* Амаль сто чалавек загінулі ў час пажару. **2.** *BrE* псава́ць; псава́цца (*пра матэрыял*) ♦ **perish the thought** *infml* бараní бог!

**perishable** [ˈperɪʃəbl] *adj.* **1.** тле́нны; нетрыва́лы **2.** скарапсава́льны; **perishable goods/foods** скарапсава́льныя тава́ры/праду́кты

**perished** [ˈperɪʃt] *adj. BrE, infml* заме́рзлы, хало́дны

**perjure** [ˈpɜːdʒə] *v. law* : **perjure oneself** дава́ць ілжы́выя (беспадста́ўныя) паказа́нні пад пры́сягай

**perjury** [ˈpɜːdʒəri] *n. law* (і)лжэсве́дчанне

**perk** [pɜːk] *n.* (*звыч. pl.* **perks**) дадатко́выя льго́ты; прыпла́ты; надба́ўкі (*да заробку, пенсіі і да т.п.*)

**perk up** [ˌpɜːkˈʌp] *phr.v. infml* **1.** падбадзёрваць (*хворага і да т.п.*) **2.** акрыя́ць; ажы́ць ду́хам/душо́й **3.** зрабі́ць (*што-н.*) больш прыва́бным, ціка́вым

**perky** [ˈpɜːki] *adj.* **1.** *infml* вясёлы, бо́йкі **2.** дзёрзкі, самаўпэ́ўнены, нахабны

**perm**[1] [pɜːm] *n.* завіўка; *She has a perm.* У яе завіўка.

**perm**[2] [pɜːm] *v.* рабі́ць заві́ўку; *She has had her hair permed recently*. Яна нядаўна зрабіла завіўку.

**permafrost** [ˈpɜːməfrɒst] *n.* ве́чная мерзлата́

**permanence** [ˈpɜːmənəns] *n.* трыва́ласць, пастая́нства, нязме́ннасць

**permanent** [ˈpɜːmənənt] *adj.* пермане́нтны, даўгача́сны; пастая́нны, ста́лы; **a permanent job** пастая́нная рабо́та; **a permanent address** пастая́нны а́драс

**permanently** [ˈpɜːmnəntli] *adv.* пермане́нтна, пастая́нна, беспераста́нна

**permeate** [ˈpɜːmieɪt] *v. fml* праніка́ць; прахо́дзіць скрозь; *Water had permeated through the cracks in the wall.* Вада прасачылася праз трэшчыны ў сцяне.

**permissible** [pəˈmɪsəbl] *adj. fml* **(for)** дапушча́льны; **a permissible dose** дапушча́льная до́за

**permission** [pəˈmɪʃn] *n.* **(for)** дазво́л; **give/refuse permission to do smth.** даць дазво́л/не дазво́ліць рабі́ць што-н.; *They were refused permission to leave the country.* Ім не дазволілі пакінуць краіну; **with your permission** *fml* з ва́шага дазво́лу

**permissive** [pəˈmɪsɪv] *adj.* які́ (што) дазваля́е; няstро́гі, талера́нтны, пабла́жлівы

**permit**[1] [ˈpɜːmɪt] *n.* дазво́л; про́пуск; *You cannot enter a military base without a permit.* На ваенную базу нельга прайсці без пропуска.

**permit**[2] [pəˈmɪt] *v. fml* дазваля́ць; **weather permitting** калі́ дазво́ліць надво́р'е; *Dogs are not permitted inside the shop.* З сабакамі ўваход у краму забаронены; *The situation permits* (*of*) *no delay.* Абставіны патрабуюць дзейнічаць тэрмінова.

**peroxide** [pəˈrɒksaɪd] *v. chem.* пе́ракіс; **hydrogene peroxide** пе́ракіс вадаро́ду; **a peroxide blonde** «хімі́чная» бландзі́нка

**perpendicular**[1] [ˌpɜːpənˈdɪkjələ] *n.* **1.** *math.* перпендыкуля́р; перпендыкуля́рная лі́нія **2.** вертыка́ль

**perpendicular**[2] [ˌpɜːpənˈdɪkjələ] *adj.* перпендыкуля́рны; вертыка́льны

**perpetrate** [ˈpɜːpətreɪt] *v. fml* **(against/upon/on)** зрабі́ць; учыні́ць; **perpetrate a crime/fraud/massacre** учыні́ць злачы́нства/махля́рства/ма́савае забо́йства

**perpetrator** [ˈpɜːpətreɪtə] *n.* злачы́нец; злачы́нка; вінава́ты

**perpetual** [pəˈpetʃuəl] *adj.* **1.** ве́чны, бяско́нцы; **live in a state of perpetual fear** жыць у пастая́нным стра́ху **2.** пажыццёвы, бестэрміно́вы

**perpetual motion** [pəˌpətʃuəlˈməʊʃn] *n.* ве́чны рух; перпе́туум-мо́біле

**perplex** [pəˈpleks] *v.* азада́чваць, прыво́дзіць у неўразуме́нне; *I was perplexed by his strange behaviour.* Я быў азадачаны яго дзіўнымі паводзінамі.

**perplexed** [pəˈplekst] *adj.* **1.** ашало́млены; збі́ты з то́лку/панталы́ку **2.** заблы́таны, склада́ны

**perplexity** [pəˈpleksəti] *n. fml* **1.** неўразуме́нне, замяша́нне; збянтэ́жанасць **2.** заблы́танасць

**persecute** [ˈpɜːsɪkjuːt] *v.* **1.** праслéдаваць, гнаць; цкавáць; уціскáць; *Actors complained of being persecuted by the press*. Акцёры скардзіліся на ўціск прэсы. **2.** дакучáць, назалянць

**persecution** [ˌpɜːsɪˈkjuːʃn] *n.* **1.** праслéдаванне, ганéнне **2.** дакýчлівасць, прыставáнне

**persecution complex** [pɜːsɪˈkjuːʃnˌkɒmpleks] *n. med.* мáнія праслéдавання

**persecutor** [ˈpɜːsɪkjuːtə] *n.* праслéдавацель, ганíцель

**perseverance** [ˌpɜːsɪˈvɪərəns] *n.* **(in, with)** упáртасць, настóйлівасць; *Mary has shown great perseverance in trying to overcome the handicap.* Мэры праявіла вялікую настойлівасць, спрабуючы пераадолець перашкоду.

**persevere** [ˌpɜːsɪˈvɪə] *v.* упáрта працáгваць; **persevere in one's studies** (настóйліва) працягваць вучóбу; *If you persevere I'm sure you'll succeed.* Я ўпэўнены, ты даб'ешся поспеху, калі будзеш настойліва імкнуцца да яго.

**Persian**[1] [ˈpɜːʃn] *n.* персіянін; персіянка; **the Persians** пéрсы

**Persian**[2] [ˈpɜːʃn] *adj.* **1.** персíдскі, ірáнскі **2.** персíдская мóва (*у Іране*)

**Persian carpet** [ˌpɜːʃnˈkɑːpɪt] *n.* персíдскі дывáн

**Persian cat** [ˌpɜːʃnˈkæt] *n.* персíдскі кот

**Persian lamb** [ˌpɜːʃnˈlæm] *n.* **1.** карáкульская авéчка **2.** карáкуль

**persiflage** [ˈpɜːsɪflɑːʒ] *n. fml* жарт, жáртачкі

**persimmon** [pəˈsɪmən] *n. bot.* хурмá

**persist** [pəˈsɪst] *v.* **1. (in, with)** упáрціцца, упірáцца; *If you persist in doing this, you'll regret it*. Калі ты будзеш і далей так рабіць, то пашкадуеш аб гэтым. **2.** заставáцца, працягваць існавáць, захóўвацца

**persistence** [pəˈsɪstəns] *n.* **1.** упáртасць, настóйлівасць **2.** працяг існавáння

**persistent** [pəˈsɪstənt] *adj.* настóйлівы, упáрты; бесперапы́нны, няспы́нны; **persistent demands** настóйлівыя патрабавáнні; **a persistent pain/cough** няспы́нны боль/кáшаль

**person** [ˈpɜːsn] *n.* **1.** чалавéк, асóба; **a very important person** вáжная асóба **2.** *ling.* асóба; **the first person** пéршая асóба ♦ **in person** асабíста; **in the person of smb.** *fml* у чыёй-н. рóлі, у рóлі кагó-н.

**personal** [ˈpɜːsənl] *adj.* **1.** асабíсты, персанáльны; **personal affairs** асабíстыя спрáвы; **a car for your personal use (only)** аўтамабíль тóлькі для вáшага асабістага карыстáння **2.** характэ́рны для дáдзенай асóбы; **personal identity** асабíстыя я́касці; **personal hygiene** асабíстая гігіéна **3.** *ling.* асабóвы; **a personal pronoun** асабóвы займéннік

**personal assistant** [ˌpɜːsənləˈsɪstənt] *n.* асабíсты памóчнік

**personal computer** [ˌpɜːsənlkəmpˈjuːtə] *n.* персанáльны камп'ютар

**personal estate** [ˌpɜːsənlɪˈsteɪt] *n. law* асабíстая ўлáснасць

**personal identification number** [ˌpɜːsənlaɪˌdentɪfɪkeɪʃnˈnʌmbə] *n.* асабíсты нýмар

**personality** [ˌpɜːsəˈnæləti] *n.* **1.** асóба, індывідуáльнасць; *He is a charming personality.* Ён абаяльны чалавек. **2.** вядóмая, выдáтная асóба

**personality cult** [ˌpɜːsəˈnælətiˌkʌlt] *n.* культ асóбы

**personally** [ˈpɜːsənəli] *adv.* асабíста; *Don't take this personally.* Не прымай гэта на свой рахунак; *I don't know him personally, but I've read his books.* Я не ведаю яго асабіста, але я чытаў яго кнігі.

**persona non grata** [pɜːˌsəʊnənɒnˈgrɑːtə] *n.* персóна нон грáта

**personify** [pəˈsɒnɪfaɪ] *v.* **1.** увасабля́ць **2.** персаніфікавáць

**personnel** [ˌpɜːsəˈnel] *n.* персанáл, штат; **medical personnel** медыцы́нскі персанáл; **skilled/trained personnel** кваліфікавáны/абýчаны персанáл; *Army personnel are not allowed to leave the base*. Армейскаму персаналу не дазваляецца пакідаць базу.

**personnel management** [ˌpɜːsəˈnelˌmænɪdʒmənt] *n.* кіраўнíцтва кáдрамі

**perspective** [pəˈspektɪv] *n.* перспекты́ва; **in/out of perspective** (намалявáны) з захавáннем/парушэ́ннем закóнаў перспекты́вы; **see/look at smth. in perspective** бáчыць што-н. у сапрáўдным святлé

**perspex** [ˈpɜːspeks] *n.* плексіглáс

**perspiration** [ˌpɜːspəˈreɪʃn] *n.* **1.** пацéнне **2.** пот; *I'm dripping with perspiration.* Я абліваюся потам.

**perspire** [pəˈspaɪə] *v. fml* пацéць

**persuade** [pəˈsweɪd] *v.* **(into)** перакóнваць, угавóрваць; *Please try and persuade her to come with us.* Калі ласка, угавары яе пайсці з намі.

**persuasion** [pəˈsweɪʒn] *n.* **1.** пераканáнне; пераканáнасць; упэ́ўненасць; **by force or persuasion** сíлай абó пераканáннем; **the art of persuasion** майстэ́рства пераканáння **2.** дýмка; пóгляд; меркавáнне; *It was his private persuasion.* Гэта было яго прыватнае меркаванне. **3.** рэлігíйная пераканáнасць; веравызнáнне

**persuasive** [pəˈsweɪsɪv] *adj.* пераканáўчы; **persuasive arguments** пераканáўчыя аргумéнты; *She was very persuasive.* Яна гаварыла вельмі пераканаўча.

**pert** [pɜːt] *adj*. дзёрзкі, нахáбны, развя́зны
**perturb** [pəˈtɜːb] *v. fml* бянтэ́жыць, турбавáць, хвалявáць
**perturbation** [ˌpɜːtəˈbeɪʃn] *n. fml* **1.** хвалявáнне, збянтэ́жанасць **2.** пeратурбáцыя (*у розных знач.*)
**Peruvian**[1] [pəˈruːviən] *n.* перуáнец; перуáнка
**Peruvian**[2] [pəˈruːviən] *adj*. перуáнскі
**pervade** [pəˈveɪd] *v. fml* распаўсю́джвацца; пранікáць, напаўня́ць
**pervasion** [pəˈveɪʒn] *n.* распаўсю́джанне; пранікнéнне
**perverse** [pəˈvɜːs] *adj.* **1.** распу́сны; разбэ́шчаны; сапсавáны **2.** нату́рысты, нараві́сты, упáрты, капры́зны; **a perverse child** упáртае дзіця́ **3.** ненармáльны, вы́чварны
**perversion** [pəˈvɜːʃn] *n.* скажэ́нне, парушэ́нне, перакру́чванне
**pervert** [pəˈvɜːt] *v.* **1.** вычварáць, перакру́чваць, скажáць; **pervert the truth** скажáць прáўду **2.** звóдзіць, збівáць з прáвільнага шляху; разбэ́шчваць
**perverted** [pəˈvɜːtɪd] *adj.* ненармáльны, разбэ́шчаны (*пра паводзіны*); **a perverted desire to make others suffer** ненармáльнае жадáнне прымушáць і́ншых паку́таваць
**pessimism** [ˈpesɪmɪzəm] *n.* песімі́зм
**pessimist** [ˈpesɪmɪst] *n.* песімі́ст
**pessimistic** [ˌpesɪˈmɪstɪk] *adj.* песімісты́чны
**pest** [pest] *n.* **1.** шкóднік, паразі́т **2.** *infml* кáра, няшчáсце; *The flies are a pest here.* Тут ад мух няма жыцця.
**pester** [ˈpestə] *v.* **(for, with)** прыставáць, даймáць, дапякáць, му́чыць; **pester smb. with questions** даймáць кагó-н. пытáннямі; *He pestered her with requests for help.* Ён даймаў яе просьбамі дапамагчы.
**pesticide** [ˈpestɪsaɪd] *n. chem.* пестыцы́д; **vegetables grown without the use of pesticides** гарóдніна, вы́рашчаная без пестыцы́даў
**pet**[1] [pet] *n.* **1.** любі́мая жывёліна **2.** любі́мец, улюбёнец; пясту́н; **a pet name** ласкáльнае імя́
**pet**[2] [pet] *adj.* **1.** свóйскі; **a pet monkey** прыру́чаная, ручня́я мáлпа **2.** любі́мы; **a pet subject/project** любі́мы прадмéт/праéкт; **a pet theory** любі́мая тэóрыя
**pet**[3] [pet] *v*. пéсціць, лáшчыць; мілавáць, галу́біць
**petal** [ˈpetl] *n.* пялёстак (*кветкі*); **a flower with five petals** квéтка з пяццю́ пялёсткамі; **rose petals** пялёсткі руж
**petition**[1] [pəˈtɪʃn] *n.* **(against/for)** петы́цыя; хадáйніцтва, зая́ва; **a petition for mercy** хадáйніцтва аб памі́лаванні; **a petition for divorce** зая́ва аб скасавáнні шлю́бу; *They wanted me to sign a petition against experiments on animals.* Яны хацелі, каб я падпісаў хадайніцтва супраць эксперыментаў над жывёламі.
**petition**[2] [pəˈtɪʃn] *v.* **(for/against) 1.** звяртáцца з петы́цыяй **2.** хадáйнічаць; *Villagers petitioned the local authorities to provide better bus services.* Сельскія жыхары хадайнічалі перад мясцовымі ўладамі аб паляпшэнні работы аўтобусаў.
**petrify** [ˈpetrɪfaɪ] *v.* **1.** напалóхаць, напужáць **2.** здранцвéць; *I was petrified with horror.* Я змярцвеў ад жаху. **3.**ператвары́цца ў кáмень; акамянéць, скамянéць
**petrodollar** [ˈpetrəʊdɒlə] *n.* нафтадóлар
**petrol** [ˈpetrəl] *n. BrE* бензі́н; **fill a car with petrol** залі́ць бензі́н у машы́ну; **a petrol tank** бензабáк; **an increase in petrol prices** павышэ́нне цэн на бензі́н
**petroleum** [pəˈtrəʊliəm] *n.* нáфта; **petroleum-based products** нафтапраду́кты
**petroleum jelly** [pəˌtrəʊliəmˈdʒeli] *n.* вазелі́н
**petrol station** [ˈpetrəlˌsteɪʃn] *n. BrE* бензакалóнка
**petticoat** [ˈpetɪkəʊt] *n. dated* спадні́ца (*сподняя*)
**petty** [ˈpeti] *adj.* **1.** дрóбны; нязнáчны, малавáжны; **petty officials** дрóбныя чынóўнікі; *He said he wasn't interested in petty details.* Ён сказаў, што яго не цікавяць дробныя дэталі. **2.** *derog.* ву́зкі, лімітавáны; **petty minds** вузкалóбыя
**petty cash** [ˌpetiˈkæʃ] *n.* грóшы на дрóбныя расхóды
**petty larceny** [ˌpetiˈlɑːsəni] *n. law* дрóбны крадзéж
**petty officer** [ˌpetiˈɒfɪsə] *n.* старшынá (*на флоце*)
**petulant** [ˈpetjulənt] *adj.* раздражня́льны; недарэ́чны; нецярплі́вы
**petunia** [pəˈtjuːniə] *n. bot.* пету́нія
**phalli** [ˈfælaɪ] *pl.* → **phallus**
**phallus** [ˈfæləs] *n. anat.* (*pl.* **phalluses** *or* **phalli**) фáлас
**phantom** [ˈfæntəm] *n.* **1.** фантóм, пры́від **2.** ілю́зія; плён фантáзіі, уяўлéнне; **phantom fears** фантóмныя стрáхі
**pharmaceutical** [ˌfɑːməˈsuːtɪkl] *adj.* фармацэўты́чны; **a pharmaceutical company** фармацэўты́чная кампáнія
**pharmacist** [ˈfɑːməsɪst] *n.* фармацэ́ўт; **pharmacist's** *BrE* аптэ́ка
**pharmacology** [ˌfɑːməˈkɒlədʒi] *n.* фармакалóгія
**pharmacy** [ˈfɑːməsi] *n.* **1.** фармацэ́ўтыка **2.** аптэ́ка; **an all-night pharmacy** кругласу́тачная аптэ́ка

**pharynges** [fəˈrɪndʒiːz] *pl.* → **pharynx**
**pharynx** [ˈfærɪŋks] *n. anat.* (*pl.* **pharynges**) глóтка, зеў
**phase** [feɪz] *n.* фáза; стáдыя, перыя́д; ступéнь развіццá; **a phase of history** ступéнь развіццá гістóрыі; *My son is going through a difficult phase*. Мой сын перажывае зараз цяжкі перыяд.
**PhD** [ˌpiːeɪtʃˈdiː] *n.* (*скар. ад* **Doctor of Philosophy**) дóктар філасóфіі
**pheasant** [ˈfeznt] *n. zool.* (*pl.* **pheasants** *or* **pheasant**) фазáн; **roast pheasant** смáжаны фазáн
**phenomena** [fəˈnɒmɪnə] *pl.* → **phenomenon**
**phenomenal** [fəˈnɒmɪnl] *adj.* фенаменáльны, незвычáйны; **phenomenal strength** незвычáйная моц; **phenomenal economic growth** незвычáйны эканамíчны рост; **the phenomenal success of her books** фенаменáльны пóспех яé кніг
**phenomenon** [fəˈnɒmɪnən] *n.* (*pl.* **phenomena**) **1.** фенóмен, з'я́ва; **the phenomena of nature** з'я́вы прырóды **2.** незвычáйная з'я́ва, фенóмен; **a natural/social/historical phenomenon** прырóдны/сацыя́льны/гістары́чны фенóмен; *Bankruptcy is a common phenomenon in an economic recession.* Банкруцтва – звычайная з'ява ў час эканамічнага спаду.
**phew** [fjuː] *interj. BrE* **1.** фу!; ну і ну! (*перадае здзіўленне і палёгку*) **2.** ух! (*перадае стомленасць*)
**philanthropist** [fɪˈlænθrəpɪst] *n.* філантрóп
**philanthropy** [fɪˈlænθrəpi] *n.* філантрóпія
**philately** [fɪˈlætəli] *n.* філатэлíя
**philologist** [fɪˈlɒlədʒɪst] *n.* філóлаг
**philology** [fɪˈlɒlədʒi] *n.* філалóгія
**philosopher** [fəˈlɒsəfə] *n.* філóсаф; **the Greek philosopher Aristotle** грэ́часкі філóсаф Арыстóцель; *He seems to be a bit of a philosopher.* Здаецца, ён крышку філосаф.
**philosophical** [ˌfɪləˈsɒfɪkl] *adj.* філасóфскі; **philosophical principles/speculations** філасóфскія пры́нцыпы/развагáнні; **a philosophical character** філасóфскі харáктар
**philosophy** [fəˈlɒsəfi] *n.* філасóфія; **a philosophy lecturer** выкладчык філасóфіі; **the philosophy of Kant** філасóфія Кáнта
**phlegmatic** [flegˈmætɪk] *adj.* флегматы́чны; **a phlegmatic temperament** флегматы́чны тэмперáмент
**phlox** [flɒks] *n. bot.* флёкс
**phobia** [ˈfəʊbiə] *n.* **1.** *med.* фóбія **2.** страх, бóязь *She has a phobia about rats.* Яна страшэнна баіцца пацукоў.
**phone¹** [fəʊn] *n.* **1.** тэлефóн; **a long-distance phone call** міжгарóдні тэлефóнны званóк; *What's your phone number?* Які нумар вашага тэлефона? **2.** тэлефóнная трýбка; **pick up the phone** зняць трýбку; **put the phone down** паклáсці трýбку ♦ **be on the phone** 1) званíць 2) *BrE* мець тэлефóн
**phone²** [fəʊn] *v.* званíць па тэлефóне, тэлефанавáць; *Has Kate phoned yet?* Каця ўжо пазваніла?; *I phoned Jim up yesterday.* Учора я званіла Джыму.
**phone book** [ˈfəʊnˌbʊk] *n.* тэлефóнны давéднік
**phone booth** [ˈfəʊnˌbuːð] *n.* тэлефóнная бýдка
**phone box** [ˈfəʊnˌbɒks] *n. BrE* тэлефóнная бýдка
**phoneme** [ˈfəʊniːm] *n. ling.* фанéма
**phonetician** [ˌfəʊnəˈtɪʃn] *n.* фанеты́ст
**phonetic** [fəˈnetɪk] *adj.* фанеты́чны; **a phonetic alphabet** фанеты́чны алфавíт; **a phonetic transcription** фанеты́чная транскры́пцыя
**phonetics** [fəˈnetɪks] *n. ling.* фанéтыка
**phonology** [fəˈnɒlədʒi] *n. ling.* фаналóгія
**phosphate** [ˈfɒsfeɪt] *n. chem.* фасфáт
**phosphorescence** [ˌfɒsfəˈresns] *n.* фасфарасцы́раванне
**phosphorus** [ˈfɒsfərəs] *n. chem.* фóсфар
**photo** [ˈfəʊtəʊ] *n.* (*pl.* **-os**) фóта, фатагрáфія, фотазды́мак; **get/have one's photo taken** фатаграфавáцца; **the family photo album** сямéйны фотаальбóм; *Let's take a photo of the hotel.* Давай сфатаграфуем гасцініцу.
**photocopier** [ˈfəʊtəʊˌkɒpiə] *n.* фотакапіравáльная машы́на; ксéракс
**photocopy¹** [ˈfəʊtəʊˌkɒpi] *n.* фотакóпія, ксеракóпія; *Make three photocopies of the report, please.* Калі ласка, зрабі тры ксеракопіі даклада.
**photocopy²** [ˈfəʊtəʊˌkɒpi] *v.* фотакапíраваць, ксеракапíраваць, рабíць фотакóпію абó ксеракóпію; *Can you get these photocopied for me by 5 o'clock?* Вы можаце зрабіць для мяне гэтыя фотакопіі да пяці гадзін?
**photogenic** [ˌfəʊtəʊˈdʒenɪk] *adj.* фотагенíчны
**photograph¹** [ˈfəʊtəgrɑːf] *n.* (*таксама* **photo**) фатагрáфія, зды́мак; **a passport photograph** фатагрáфія на пáшпарт; **wedding photographs** вясéльныя фатагрáфіі; **an old black-and-white photograph of the city** стáры чóрна-бéлы фотазды́мак гóрада; **take a photograph of smb.** фатаграфавáць каго́-н.; *Visitors are not allowed to take photographs inside the museum.* Наведвальнікам не дазваляецца фатаграфаваць у музеі.
**photograph²** [ˈfəʊtəgrɑːf] *v.* фатаграфавáць; *He photographs well/badly.* Ён добра/дрэнна фатаграфуе.
**photographer** [fəˈtɒgrəfə] *n.* фатóграф

**photographic** [ˌfəʊtəˈɡræfik] *adj*. фатаграфíчны; **a photographic memory** фатаграфíчная пáмяць

**photography** [fəˈtɒɡrəfi] *n*. фатагрáфія; фатаграфавáнне; фотаздымка

**photomontage** [ˌfəʊtəʊmɒnˈtɑːʒ] *n*. фотамантáж

**photon** [ˈfəʊtɒn] *n. phys*. фатóн

**photosynthesis** [ˌfəʊtəʊˈsɪnθəsɪs] *n*. фотасíнтэз

**phrasal** [ˈfreɪzl] *adj. ling*. фрáзавы; **a phrasal verb** фрáзавы дзеяслóў; **phrasal stress** фрáзавы нáціск

**phrase**[1] [freɪz] *n*. **1.** фрáза, вы́раз; **as the phrase goes** як кáжуць/гавóрыцца **2.** *mus*. фрáза

**phrase**[2] [freɪz] *v*. **1.** выкáзваць слóвамі, фармулявáць **2.** называ́ць; характарызавáць

**phrase book** [ˈfreɪzˌbʊk] *n*. размóўнік

**phraseology** [ˌfreɪziˈɒlədʒi] *n. ling*. фразеалóгія

**physical** [ˈfɪzɪkl] *adj*. **1.** фізíчны (*у розных знач.*); **physical fitness** фізíчная падрыхтавáнасць; **physical geography** фізíчная геагрáфія; **physical chemistry** фізíчная хíмія **2.** матэрыя́льны; **the physical world** матэрыя́льны свет

**physical education** [ˌfɪzɪkledʒuˈkeɪʃn] *n*. фізкультýра, фізíчнае выхавáнне

**physically** [ˈfɪzɪkəli] *adv*. **1.** фізíчна **2.** зусíм, цáлкам; *It was physically impossible to do that.* Зрабіць гэта было зусім немагчыма.

**physician** [fɪˈzɪʃn] *n. fml* урáч; тэрапéўт

**physicist** [ˈfɪzɪsɪst] *n*. фíзік; **a nuclear physicist** фíзік-я́дзершчык

**physics** [ˈfɪzɪks] *n*. фíзіка; **theoretical physics** тэарэты́чная фíзіка; **the laws of physics** закóны фíзікі; **a physics textbook** падрýчнік па фíзіцы

**physiology** [ˌfɪziˈɒlədʒi] *n*. фізіялóгія; **reproductive physiology** рэпрадукты́ўная фізіялóгія; **the anatomy and physiology of the brain** анатóмія і фізіялóгія мóзга

**physiotherapist** [ˌfɪziəʊˈθerəpɪst] *n*. фізіятэрапéўт

**physiotherapy** [ˌfɪziəʊˈθerəpi] *n*. фізіятэрапíя

**physique** [fɪˈziːk] *n*. целасклáд; **a fine/muscular/well-developed physique** цудóўны/мýскулісты/развíты целасклáд; *He doesn't have the physique for such heavy work.* Па сваім целаскладзе ён не падыходзіць да такой цяжкай працы.

**pi** [paɪ] *n*. **1.** пі (*16-я літара грэчаскага алфавіта*) **2.** *math*. лік π (= 3,14)

**pianist** [ˈpɪənɪst] *n*. піянíст; піянíстка; **a famous concert/jazz pianist** вядóмы канцэ́ртны/джáзавы піянíст

**piano**[1] [piˈænəʊ] *n*. (*pl*. **-os**) піянíна; **a grand piano** рая́ль; **a piano lesson** урóк ігры́ на піянíна; **play a tune on the piano** ігрáць мелóдыю на піянíна; *He composed several short pieces for* (*the*) *piano.* Ён стварыў некалькі кароткіх п'ес для фартэпіяна.

**piano**[1] [ˈpjɑːnəʊ] *adv. mus*. пія́на

**pick**[1] [pɪk] *n*. кíрка; **an ice pick** ледасéк; **a toothpick** зубачы́стка

**pick**[2] [pɪk] *n*. вы́бар; *She can have her pick and choice of any university in the country.* Яна можа выбраць любы ўніверсітэт у краіне.

**pick**[3] [pɪk] *v*. **1.** выбірáць, падбірáць; *The students have to pick three courses from a list of 15.* Студэнтам трэба выбраць тры курсы з пятнаццаці; *Let me pick a few examples at random.* Дазволь мне выбраць наўгад тры прыклады. **2.** (і)рвáць, збірáць; **pick fruit** збірáць плады́; **pick flowers** (і)рвáць квéткі **3.** выкалýпліваць; калупáць ♦ **pick and choose** быць перабóрлівым; **pick smb.'s pocket** залéзці камý-н. у кішэ́ню; **pick up speed** павялíчваць (*хуткасць*); **pick one's way** выбірáць шлях

**pick at** [ˌpɪkˈæt] *phr.v.* **: pick at one's food** калупáць éжу (*відэльцам*)

**pick on** [ˌpɪkˈɒn] *phr.v.* выбірáць вінавáтага, чапля́цца (*да каго-н.*); *Why pick on me every time?* Чаму я заўсёды вінаваты?

**pick out** [ˌpɪkˈaʊt] *phr.v.* **1.** выбірáць **2.** адрóзніваць **3.** падбірáць мелóдыю на слых

**pick up** [ˌpɪkˈʌp] *phr.v.* **1.** падымáць; падымáцца; *He picked up his bag.* Ён узяў сваю сумку. **2.** збірáць; *Pick up your toys.* Збяры свае цацкі. **3.** набывáць, здабывáць; **pick up an accent** набы́ць акцэ́нт **4.** збірáць, падбірáць (*пасажыраў*) **5.** лавíць па прыёмніку **6.** *infml* пачáць зноў; апáмятацца; аднавíць сíлы **7.** паляпшáцца; *Trade is picking up again.* Гандаль ажыўляецца. **8.** *infml* арыштавáць злачы́нцу

**pickaxe** [ˈpɪkæks] *n*. кíрка

**picket**[1] [ˈpɪkɪt] *n*. **1.** кол **2.** пікéт; **a picket on the steps of the Federal court building** пікéт на прыстýпках буды́нка Федэрáльнага судá **3.** пікéтчык; **a picket line** шарэ́нга пікéтчыкаў

**picket**[2] [ˈpɪkɪt] *v*. пікетавáць; **picket a factory** пікетавáць завóд; *Miners picketed every pit for the months.* Шахцёры цэлы месяц пікетавалі кожную шахту.

**pickle**[1] [ˈpɪkl] *n*. **1.** марынáд, расóл **2.** салéнні (*марынаваныя або салёныя агуркі; марынаваная капуста, цыбуля і да т.п.*); **a cheese and pickle sandwich** бутэрбрóд з сы́рам і марынавáным агуркóм

**pickle**[2] [ˈpɪkl] *v*. салíць; марынавáць

**pickled** [ˈpɪkld] *adj.* салёны; марынава́ны; **pickled onions** марынава́ная цыбу́ля
**pickpocket** [ˈpɪkpɒkɪt] *n.* кішэ́нны зло́дзей
**picnic** [ˈpɪknɪk] *n.* пікні́к ♦ **it's no picnic** *infml* гэ́та не так лёгка
**picnic(k)** [ˈpɪknɪk] *v.* арганізо́ўваць/ла́дзіць пікні́к, удзе́льнічаць у пікніку́; *They were picnicking in the woods*. Яны арганізавалі пікнік у лесе.
**pictogram** [ˈpɪktəgræm] *n.* піктагра́ма
**pictorial** [pɪkˈtɔːriəl] *adj.* ілюстрава́ны; **pictorial art** выяўле́нчае маста́цтва; **a pictorial magazine/encyclopedia** ілюстрава́ны часо́піс/ілюстрава́ная энцыклапе́дыя
**picture**[1] [ˈpɪktʃə] *n.* **1.** карці́на, малю́нак; ілюстра́цыя (*таксама перан.*) **2.** фатагра́фія; *They showed us their wedding picture.* Яны паказалі нам сваю вясельную фатаграфію. **3.** увасабле́нне **4.** фільм
**picture**[2] [ˈpɪktʃə] *v.* маля́ва́ць; пака́зваць; апі́сваць; *This situation is realistically pictured in the first chapter.* Гэтая сітуацыя рэалістычна апісана ў першым раздзеле.
**picture messaging** [ˈpɪktʃəˌmesɪdʒɪŋ] *n.* адпраўле́нне лі́чбавай фатагра́фіі з аднаго́ мабі́льнага тэлефо́на на і́ншы
**pictures** [ˈpɪktʃəz] *n. pl.* **the pictures** *infml, dated* кіно́; *Would you like to go to the pictures on Saturday?* Хочаш схадзіць у кіно ў суботу?
**picturesque** [ˌpɪktʃəˈresk] *adj.* маляўні́чы; **a picturesque cottage** прыго́жы дом; **a picturesque fishing village** маляўні́чая рыба́цкая вёска; **a picturesque setting** маляўні́чае навако́лле
**pidgin** [ˈpɪdʒɪn] *n.* гібры́дная мо́ва (*са скажэннем фанетычнага і марфалагічнага аблічча слова*); **Pidgin English** спро́шчаны гібры́дны варыя́нт англі́йскай мо́вы
**pie** [paɪ] *n.* піро́г, піражо́к; **an apple pie/a meat pie** піро́г з я́блыкамі/мя́сам ♦ **have a finger in every pie** *infml* прыкла́сці руку́ да мно́гіх спраў
**piece** [piːs] *n.* **1.** кава́лак, кусо́к; **a piece of paper** а́ркуш папе́ры; **a piece of land** кава́лак зямлі́ **2.** асо́бная рэч; **a piece of furniture** мэ́бля; **a piece of luggage** ме́сца багажу́; **a chess piece** ша́хматная фігу́ра **3.** твор; **a piece of art** маста́цкі твор **4.** мане́та; **a five-copeck piece** пяцікапе́ечная мане́та **5.** (*у спалучэннях*) **: a piece of news/advice/luck** навіна́/пара́да/уда́ча ♦ **a piece of cake** *infml* дро́бязь; пусцяко́вая спра́ва; **give smb. a piece of one's mind** *infml* зада́ць каму́-н. жа́ру; **in one piece** *infml* цэ́лы і непашко́джаны, здаро́вы; **go to pieces** *infml* разнервава́цца, спужа́цца; правалі́цца, прапа́сці
**piece together** [ˌpiːstəˈgeðə] *phr.v.* састаўля́ць, збіра́ць; *He was slowly piecing together torn fragments of a letter.* Ён павольна састаўляў кавалачкі парванага пісьма.
**piecemeal**[1] [ˈpiːsmiːl] *adj.* частко́вы; **piecemeal changes** частко́вая змяне́нні
**piecemeal**[2] [ˈpiːsmiːl] *adv.* па ча́стках; уры́ўкамі́; *The house was filled with furniture they'd bought piecemeal.* Дом быў запоўнены мэбляй, якую яны купілі па частках.
**piecework** [ˈpiːswɜːk] *n.* здзе́льная рабо́та
**piecrust** [ˈpaɪkrʌst] *n.* скары́нка пірага́
**Pied Piper** [ˌpaɪdˈpaɪpə] *n.* чалаве́к, які́ мо́жа ўгавары́ць і́ншых людзе́й пайсці́ за ім або́ рабі́ць што-н. ра́зам; лі́дар
**pie-eyed** [ˌpaɪˈaɪd] *adj. infml* п'я́ны, пад му́хай
**pier** [pɪə] *n.* пірс; **Brighton pier** пірс у Бра́йтане
**pierce** [pɪəs] *v.* пратыка́ць, прако́лваць; *The nail pierced the tyre*. Цвік пракалоў шыну; *Maybe you can pierce another hole in the belt.* Можаш пракалоць яшчэ дзірку ў поясе.
**piercing** [ˈpɪəsɪŋ] *adj.* прані́злівы; прарэ́злівы; **a piercing wind** прані́злівы ве́цер; *Her piercing brown eyes scanned their faces.* Яе пранізлівыя карыя вочы ўважліва ўглядаліся ў іх твары.
**pig** [pɪg] *n.* **1.** свіння́; парася́ **2.** неаха́йнік; наха́бнік; свіння́; *How can you live in this mess? You are such a pig!* Як можна жыць у такім беспарадку? Якая ж ты свіння! ♦ **make a pig of oneself** *infml* аб'яда́цца; **in a pig's eye** *infml* ніко́лі, нізашто́; **make a pig's ear (out) of smth.** *BrE, infml* рабі́ць што-н. ве́льмі дрэ́нна, халту́рыць; **buy a pig in a poke** ≅ купі́ць ката́ ў мяшку́; **when pigs fly** *AmE, iron.* ≅ калі́ рак на гары́ сві́сне; **pigs might fly** *BrE* чаго́ то́лькі не быва́е
**pigeon** [ˈpɪdʒɪn] *n. zool.* го́луб
**pigeonhole**[1] [ˈpɪdʒɪnˌhəʊl] *n.* аддзяле́нне (*для папер*); шуфля́да; ячэ́йка
**pigeonhole**[2] [ˈpɪdʒɪnˌhəʊl] *v.* **1.** адкла́дваць на до́ўгі час **2.** раскла́да́ць па скры́нках, ячэ́йках **3.** класіфікава́ць, сартава́ць
**pigheaded** [ˌpɪgˈhedɪd] *adj.* тупы́, упа́рты; *Stop being so pigheaded and admit that you were wrong!* Перастань упарціцца і прызнай, што ты памыляўся!
**pig iron** [ˈpɪgaɪən] *n.* чыгу́н
**piglet** [ˈpɪglət] *n.* парася́, сві́нка
**pigment** [ˈpɪgmənt] *n.* пігме́нт
**pigmentation** [ˌpɪgmənˈteɪʃn] *n.* пігмента́цыя
**pigpen** [ˈpɪgpen] *n. AmE* = **pigsty**
**pigskin** [ˈpɪgskɪn] *n.* свіна́я ску́ра

**pigsty** [ˈpɪgstaɪ] *n.* **1.** свіна́рнік **2.** *infml* свіну́шнік; *Clean up your room. It's a pigsty!* Прыбяры ў сваім пакоі. Гэта ж свінушнік!

**pigtail** [ˈpɪgteɪl] *n. BrE* каса́, ко́ска (*з валасоў*); *Jenny wore her hair in pigtails.* У Джэні былі коскі.

**pike** [paɪk] *n. zool.* (*pl.* **pike**) шчупа́к

**pilaster** [pɪˈlæstə] *n. archit.* пiля́стра

**pile**[1] [paɪl] *n.* **1.** ку́ча, гру́да; **a pile of sand** ку́ча пяску́; **a pile of books** стос кніг; *We put the newspapers in piles on the floor.* Мы паклалі газеты стосамі на падлозе. **2.** *звыч. pl.* **piles** мно́га, шмат; **piles of work** мно́га рабо́ты ♦ **make a pile** нажы́ць ку́чу гро́шай

**pile**[2] [paɪl] *v.* **1.** збіра́ць, валі́ць (*у кучу*); запа́сіць, нагрува́шчваць; *The table was piled with books.* Стол быў завалены кнігамі. **2.** ува́львацца, то́ўпіцца; *We all piled into his car.* Мы ўсе набіліся ў яго машыну.

**pile on** [ˌpaɪlˈɒn] *phr.v.* перабо́льшваць; *Don't pile it on.* Кіньце хлусіць.

**pile up** [ˌpaɪlˈʌp] *phr.v.* нагрува́шчваць; нагрува́шчвацца; *My work is piling up.* У мяне прыбаўляецца работы.

**pile**[3] [paɪl] *n.* ворс

**pill** [pɪl] *n.* пілю́ля; **sleeping pills** снатво́рнае; *He has to take pills to control his blood pressure.* Ён павінен прымаць пілюлі, каб кантраляваць крывяны ціск; **be on the contraceptive pills** прыма́ць процізача́ткавыя сро́дкі ♦ **sugar/sweeten the pill** падсаладзі́ць пілю́лю

**pillar** [ˈpɪlə] *n.* **1.** слуп; кало́на; апо́ра **2.** абелі́ск

**pillar box** [ˈpɪləbɒks] *n. BrE, dated* пашто́вая скры́нка (*стаячая*)

**pillow** [ˈpɪləʊ] *n.* паду́шка; **plump up the pillows** узбіва́ць паду́шкі; *Paula used her rucksack as a pillow.* Замест падушкі Паўла выкарыстоўвала рукзак.

**pillowcase** [ˈpɪləʊˌkeɪs] *n.* на́валачка, навало́чка

**pilot**[1] [ˈpaɪlət] *n.* **1.** піло́т, лётчык **2.** ло́цман; **a pilot boat** ло́цманскі ка́тар

**pilot**[2] [ˈpaɪlət] *adj.* про́бны, дасле́дчы, до́следны; **a pilot scheme** эксперымéнт

**pilot**[3] [ˈpaɪlət] *v.* **1.** ве́сці, пілатава́ць **2.** ве́сці, накіро́ўваць, быць праваднíко́м; *He took my hand and piloted me through the corridor.* Ён узяў мяне за руку і павёў па калідоры.

**pimple** [ˈpɪmpl] *n.* прышч, пры́шчык; **teenage pimples** падлéткавыя пры́шчыкі

**PIN** [pɪn] *n.* (*скар. ад* **Personal Identification Number**) асабі́сты ну́мар

**pin**[1] [pɪn] *n.* **1.** шпі́лька; **a safety pin** англі́йская шпі́лька; **a drawing pin** кно́пка **2.** значо́к; бро́шка ♦ **bright/clean/neat as a new pin** бліску́чы; чы́сты; акура́тны; ≅ як з іго́лачкі; **I don't care a pin** наплява́ць; **pins and needles** калаццё (*пра канечнасці*); *I've got pins and needles in my foot.* У мяне нага здранцвела; **on pins and needles** як на цвіка́х, як на іго́лках

**pin**[2] [pɪn] *v.* прышпі́льваць, прыко́лваць ♦ **pin one's hopes on smb.** усклада́ць надзéі на каго́-н.

**pin down** [ˌpɪnˈdaʊn] *phr.v.* прыпіра́ць да сцéнкі (*таксама перан.*)

**pin on** [ˌpɪnˈɒn] *phr.v.* **: pin the blame on smb.** усклада́ць віну́ на каго́-н.

**pinafore** [ˈpɪnəfɔː] *n. BrE* фарту́х

**pincer** [ˈpɪnsə] *n.* **1.** *pl.* **pincers** абцугí **2.** клю́шня; **the crab's pincers** клю́шні кра́ба

**pinch**[1] [pɪntʃ] *n.* **1.** шчыпо́к **2.** дро́бка; **a pinch of salt** дро́бка со́лі ♦ **at a pinch** *BrE* у кра́йнім вы́падку; **take smth. with a pinch of salt** ста́віцца да чаго́-н. скепты́чна, з недавéрам

**pinch**[2] [pɪntʃ] *v.* **1.** шчыпа́ць, ушчыпну́ць; прышчамі́ць; *Mum, he pinched me!* Мама, ён ушчыпнуў мяне! **2.** ці́снуць (*пра абутак*); *My shoes pinch.* Мае чаравікі ціснуць. **3.** *BrE, infml* сцягну́ць, укра́сці; *Someone has pinched my coat!* Хтосьці ўкраў маё паліто! **4.** скупі́цца, экано́міць; **pinch and scrape** экано́міць на ўсім ♦ **pinch pennies** *infml* экано́міць на ўсім

**pinch off** [ˌpɪntʃˈɒf] *phr.v.* прышчыпну́ць, адшчыпну́ць

**pinched** [pɪntʃt] *adj.* худы́; змарнéлы (*ад хваробы, турботаў*)

**pine**[1] [paɪn] *n.* **1.** *bot.* (*таксама* **pinetree**) сасна́; **a pine forest** сасно́вы лес, сасня́к, хво́йнік; **pine needles** іглі́ца **2.** (*таксама* **pinewood**) сасно́вая драўні́на; **a pine table** сасно́вы стол

**pine**[2] [paɪn] *v.* **1.** ча́хнуць, тамі́цца **2. (for)** пра́гнуць (*чаго-н.*); тужы́ць (*па кім-н.*); *She's pining for home.* Ёй вельмі хочацца дамоў.

**pine away** [ˌpaɪnəˈweɪ] *phr.v.* знемага́ць; *She pined away with grief.* Яна высахла ад гора.

**pineapple** [ˈpaɪnæpl] *n. bot.* анана́с; **fresh/tinned pineapples** свéжыя/кансервава́ныя анана́сы; **a glass of pineapple juice** шкля́нка анана́снага со́ку

**pinecone** [ˈpaɪnkəʊn] *n.* сасно́вая шы́шка

**pine nut** [ˈpaɪnnʌt] *n.* кéдравы арэ́х

**ping**[1] [pɪŋ] *n.* **1.** свіст (*кулі*) **2.** *comput.* пінг; пакéтны інтэрнэ́тны шука́льнік

**ping**[2] [pɪŋ] *v.* **1.** свіста́ць **2.** *comput.* пінгава́ць (*тэсціраваць IP-адрас*)

**ping-pong** [ˈpɪŋpɒŋ] *n. BrE, infml* насто́льны тэ́ніс, пінг-понг

**pink**[1] [pɪŋk] *n.* **1.** ружо́вы ко́лер **2.** *bot.* гваздзі́к ♦ **in the pink** *infml, dated* у цудо́ўным ста́не (*пра здароўе*)

**pink²** [pɪŋk] *adj.* ружо́вы; *The western sky was glowing pink.* Неба ружавела на захадзе; *She turned pink with an embarrassment.* Яна пачырванела ад збянтэжанасці.

**pinkish** [ˈpɪŋkɪʃ] *adj.* ружава́ты

**pinky** [ˈpɪŋki] *n. AmE, ScotE* ме́зенец

**pinny** [ˈpɪni] *n. BrE, infml* = **pinafore**

**pinpoint¹** [ˈpɪnpɔɪnt] *n.* **1.** не́шта ве́льмі мале́нькае, нязна́чнае **2.** вастрыё шпі́лькі

**pinpoint²** [ˈpɪnpɔɪnt] *adj.* дакла́дны; **pinpoint accuracy** вялі́кая дакла́днасць

**pinpoint³** [ˈpɪnpɔɪnt] *v.* дакла́дна вызнача́ць/пака́зваць; **pinpoint a problem** вы́значыць прабле́му

**pinprick** [ˈpɪnprɪk] *n.* **1.** укол шпі́лькай **2.** пры́красць; ко́лкасць

**pinstripe** [ˈpɪnstraɪp] *n.* **1.** то́нкая све́тлая пало́ска (*на матэрыі*) **2.** цёмная ткані́на ў бе́лую вертыка́льную пало́ску; **a pinstripe suit** касцю́м у то́нкую пало́ску

**pint** [paɪnt] *n.* пі́нта (*0,57 л*); *Add two pints of water to the mixture.* Дабаўце ў сумесь дзве пінты вады; **half a pint of milk** паўпі́нты малака́

**pin-up** [ˈpɪnʌp] *n.* фатагра́фія прыва́бнай асо́бы, кіназо́ркі, вы́разаная з часо́піса і прыкле́еная да сцяны́

**pioneer** [ˌpaɪəˈnɪə] *n.* **1. (in)** першаадкрыва́льнік, піяне́р; *They were pioneers in the field of microsurgery.* Яны былі першаадкрывальнікамі ў галіне мікрахірургіі. **2.** пе́ршы пасяле́нец; **the early pioneers of the Dakota territory** пе́ршыя пасяле́нцы на тэрыто́рыі Дако́ты

**pious** [ˈpaɪəs] *adj.* **1.** набо́жны **2.** ха́нжаскі; крываду́шны

**pip** [pɪp] *n.* се́мечка; зярня́тка, зе́рнетка; **apple/grape/orange pips** я́блычныя/вінагра́дныя/апельсі́навыя зе́рнеткі

**pipe¹** [paɪp] *n.* **1.** труба́; **a plastic/copper pipe** пла́стыкавая/ме́дная труба́ **2.** лю́лька; **pipe tobacco** тыту́нь для лю́лькі; *He filled and lit his pipe.* Ён набіў люльку і запаліў яе. **3.** *mus.* ду́дка; жале́йка; **an organ pipe** труба́ арга́на

**pipe²** [paɪp] *v.* **1.** пуска́ць па тру́бах (*ваду, газ, нафту*); *We've got piped water in the garden.* У нас у садзе водаправод. **2.** ігра́ць на ду́дцы, жале́йцы

**pipe dream** [ˈpaɪpdriːm] *n.* нездзяйсня́льная ма́ра

**pipeline** [ˈpaɪplaɪn] *n.* трубаправо́д (*для газу, нафты, вады*); **build a natural-gas pipeline** пракла́дваць газаправо́д

**pipe organ** [ˈpaɪpˌɔːgən] *n. mus*. арга́н

**piper** [ˈpaɪpə] *n.* валы́ншчык; дуда́р

**piquancy** [ˈpiːkənsi] *n.* піка́нтнасць, вастрыня́

**piquant** [ˈpiːkənt] *adj.* **1.** піка́нтны, во́стры **2.** прыва́бны, чаро́ўны

**pique¹** [piːk] *n. fml* пры́красць, раздражне́нне

**pique²** [piːk] *v. fml* крану́ць, абра́зіць, укало́ць (*гордасць, самалюбства*) ♦ **pique smb.'s interest, curiosity** выкліка́ць, распа́льваць чыю-н. ціка́ўнасць

**piracy** [ˈpaɪrəsi] *n.* **1.** пі́ра́цтва; **air piracy** паве́транае піра́цтва; **sea piracy** марско́е піра́цтва **2.** парушэ́нне а́ўтарскага пра́ва

**pirate¹** [ˈpaɪrət] *n.* **1.** піра́т; **a pirate crew** піра́цкая кама́нда; **a pirate ship/flag** піра́цкі карабе́ль/флаг **2.** паруша́льнік а́ўтарскага пра́ва

**pirate²** [ˈpaɪrət] *v.* **1.** *dated* займа́цца піра́цтвам; гра́біць, рабава́ць **2.** паруша́ць а́ўтарскае пра́ва; самаво́льна перавыдава́ць

**Pisces** [ˈpaɪsiːz] *n.* **1.** *astron.* Ры́бы (*сузор'е*) **2.** *astrol.* Ры́бы (*знак задыяка*; *чалавек, які нарадзіўся пад гэтым знакам*)

**piss¹** [pɪs] *n. slang, taboo* мача́ ♦ **be on the piss** *BrE* ужыва́ць шмат алкаго́лю; **take the piss (out of smb./smth.)** *BrE* высме́йваць, перадра́жніваць (каго́-н./што-н.)

**piss²** [pɪs] *v. slang, taboo* мачы́цца

**piss off** [ˌpɪsˈɒf] *phr.v.* **:** ♦ **piss off!** адчапі́ся!; ідзі́ прэч!

**pissed** [pɪst] *adj. BrE, slang, taboo* п'я́ны да непрыто́мнасці

**pistol** [ˈpɪstl] *n.* пісталет; **a starting pistol** ста́ртавы пісталет; **a pistol shot** стрэл з пісталета ♦ **hold a pistol to one's head** прымуша́ць зрабі́ць (*што-н.*) пагро́замі

**pit¹** [pɪt] *n.* **1.** я́ма (*у розных знач.*); *Dig a pit and bury the rubbish in it.* Выкапай яму і закапай у яе смецце. **2.** ша́хта; кар'е́р **3.** *theatre* арке́стравая я́ма **4. the pit** *BrE, dated* за́днія рады́ парте́ра ♦ **dig a pit for someone** капа́ць я́му каму́-н.

**pit²** [pɪt] *v.* **1.** капа́ць я́му; пакіда́ць сляды́, ме́ткі **2. (against)** паме́рацца сі́ламі (*з кім-н.*), ду́жацца

**pitch¹** [pɪtʃ] *n.* **1.** вышыня́ (*голасу, гуку, тону*) **2.** узро́вень; ступе́нь **3.** *BrE, sport* пляцо́ўка **a football/cricket/hockey pitch** футбо́льная/крыке́тная/хаке́йная пляцо́ўка

**pitch²** [pɪtʃ] *v.* **1.** устана́ўліваць; **pitch a tent** ста́віць пала́тку; **pitch a camp** разбіва́ць ла́гер **2.** кі́даць, падава́ць (*у розных знач.*); **pitch hay** кі́даць ві́ламі се́на **3.** *mus.* задава́ць вышыню́ (*тону*) **4.** па́даць, кі́дацца **5.** зве́дваць гайда́нку (*пра карабель*) ♦ **pitch a story/yarn (to smb.)** *infml* раска́зваць ба́йкі (каму́-н.), прыхлу́шваць

**pitch in** [ˌpɪtʃˈɪn] *phr.v. infml* **(with)** далучы́цца; унéсці сваю́ ча́стку

**pitch into** [ˌpɪtʃˈɪntu] *phr.v. infml* энергі́чна бра́цца (*за справу*)

**pitch**[3] [pɪtʃ] *n.* смала́, дзёгаць

**pitch-black** [ˌpɪtʃˈblæk] *adj.* чо́рны як смоль

**pitcher** [ˈpɪtʃə] *n.* збан; **a pitcher of water** збан вады́

**pitchfork** [ˈpɪtʃfɔːk] *n.* ві́лы (*для сена, саломы*)

**pitfall** [ˈpɪtfɔːl] *n.* схава́ная небяспéка; па́стка (*перан.*)

**pitiful** [ˈpɪtifəl] *adj.* **1.** жа́ласны; няшча́сны **2.** убо́гі; нікчэ́мны; **pitiful sight** убо́гае відо́вішча

**pitiless** [ˈpɪtiləs] *adj.* бязлі́тасны; **a pitiless tyrant** бязлі́тасны тыра́н

**pity**[1] [ˈpɪti] *n.* жаль, спачува́нне, шкадава́нне; **feel pity for smb.** шкадава́ць каго́-н.; *What a pity!* Як шкада!; **have/take pity on smb.** пашкадава́ць каго́-н.; злі́тавацца над кім-н.

**pity**[2] [ˈpɪti] *v.* шкадава́ць; *I pity anyone who has to feed a family on a low income.* Я шкадую кожнага, хто, маючы такі малы даход, павінен карміць сям'ю.

**pivot**[1] [ˈpɪvət] *n.* **1.** пункт апо́ры; асно́ва **2.** асно́ўны пункт, цэнтр; *His sculpture provides the pivot of the whole exhibition.* Яго скульптура з'яўляецца стрыжнем усёй выстаўкі.

**pivot**[2] [ˈpɪvət] *v.* круці́цца, вярцéцца; **pivot on/around smth.** залéжаць ад чаго́-н.

**pivotal** [ˈpɪvətl] *adj.* цэнтра́льны; кардына́льны, асно́ўны

**pizza** [ˈpiːtsə] *n.* пі́ца

**pizzeria** [ˌpiːtsəˈriːə] *n.* піцэры́я, піцэ́рыя

**pl.** (*пісьмовае скар. ад* **plural**) *ling.* мно́жны лік

**placard** [ˈplækɑːd] *n.* плака́т, афі́ша

**placate** [pləˈkeɪt] *v.* прымі́раць, супако́йваць, уціхамі́рваць

**place**[1] [pleɪs] *n.* **1.** мéсца (*у розных знач.*); **a meeting place** мéсца для схо́даў, сустрэ́ч; **a place of birth** мéсца нараджэ́ння; **change places with smb.** памяня́цца мéсцамі з кім-н.; **move from place to place** пераязджа́ць, перахо́дзіць з мéсца на мéсца; **save a place** заня́ць мéсца; **in places** мéсцамі; *In places, there was paint on the floor.* Месцамі на падлозе была фарба. **2.** мясцо́васць; **a country place** сéльская мясцо́васць **3.** паса́да, слу́жба **4.** дом; жыллё; *Let's have dinner at my place.* Давай паабедаем у мяне дома. **5.** *sport* месца; *He is in the second place.* Ён на другі́м мéсцы. ♦ **all over the place** *infml* 1) усю́ды 2) у бесπа́радку; **fall into place** ста́віць на сваё мéсца; **in the first/second place** па-пéршае/па-друго́е; **in one's place** на чыі́м-н. мéсцы; **in high places** у высо́кіх ко́лах; **in place of smb.** замéст каго́-н.; **out of place** недарэ́чны; **put someone in their place** паста́віць каго́-н. на мéсца; **take place** адбыва́цца, здара́цца

**place**[2] [pleɪs] *v.* **1.** ста́віць, кла́сці; змяшча́ць; **place a notice in a newspaper** змяшча́ць аб'я́ву ў газéце; **place an order with smb.** заказа́ць што-н. у каго́-н.; *I would place her among the best singers.* Я лічу яе адной з лепшых спявачак. **2.** па́мятаць; успаміна́ць; *I know her face but I can't place her.* Яе твар мне знаёмы, але я не магу ўспомніць, дзе яе бачыў. ♦ **be well/ideally/better placed for smth./to do smth.** до́бра/ідэа́льна/лéпей падыхо́дзіць да чаго́-н.

**placebo** [pləˈsiːbəʊ] *n.* плацэ́ба, бясшко́дны лéкавы прэпара́т; **the placebo effect** плацэ́ба эфéкт

**place mat** [ˈpleɪsmæt] *n.* падста́ўка (*пад кубак, талерку*)

**placement** [ˈpleɪsmənt] *n.* **1.** размяшчэ́нне, змяшчэ́нне; **the placement of the loan** размяшчэ́нне пазы́кі **2.** прызначэ́нне на паса́ду, рабо́ту

**place name** [ˈpleɪsneɪm] *n.* геаграфі́чная на́зва, тапо́нім

**placenta** [pləˈsentə] *n. anat.* (*звыч.* **the placenta**) плацэ́нта

**place setting** [ˈpleɪsˌsetɪŋ] *n.* стало́вы прыбо́р на адну́ персо́ну

**placid** [ˈplæsɪd] *adj.* спако́йны; *He had a placid nature.* У яго быў спакойны характар; *The lake was placid and still under the moonlight.* Залітае месячным святлом возера было спакойнае і нерухомае.

**plagiarism** [ˈpleɪdʒərɪzəm] *n.* плагія́т

**plague**[1] [pleɪg] *n.* (*таксама* **the plague**) чума́

**plague**[2] [pleɪg] *v.* **(with)** назаля́ць, дапяка́ць, турбава́ць

**plaice** [pleɪs] *n.* (*pl.* **plaice**) *zool.* ка́мбала

**plaid** [plæd] *n.* плед

**plain**[1] [pleɪn] *n.* раўні́на, ро́ўнядзь; **the vast plains of central China** вялі́зныя раўні́ны цэнтра́льнага Кіта́я

**plain**[2] [pleɪn] *adj.* **1.** я́сны, зразумéлы; *I made myself plain.* Я ясна выказаўся. **2.** про́сты; *I like plain food.* Я люблю простую ежу. **3.** прамы́, шчы́ры, адкры́ты; **a plain answer** прамы́ адка́з ♦ **(as) plain as day/(as) plain as the nose on your face** я́сны як дзень, яснéй я́снага; ≅ як двó́йчы два; **plain sailing** працéй про́стага, працéй па́ранай рэ́пы; вéльмі про́ста і лёгка

**plain clothes** [ˌpleɪnˈkləʊðz] *n.* цыві́льная во́пратка

**plait¹** [plæt] *n. BrE* каса́; *She wears her hair in plaits.* У яе косы.

**plait²** [plæt] *v. BrE* заплята́ць, пле́сці; *She plaited her hair hurriedly.* Яна паспешна запляла валасы.

**plan¹** [plæn] *n.* **1.** план, заду́ма **2.** прае́кт; **a street plan** план ву́ліцы **3.** мэ́та; зада́ча; **a savings plan** план зберажэ́ння

**plan²** [plæn] *v.* **1.** планава́ць, рабі́ць пла́ны; *The whole operation went exactly as planned.* Уся аперацыя прайшла так, як было запланавана. **2.** праектава́ць

**plan out** [ˌplænˈaʊt] *phr.v.* распланава́ць

**plane¹** [pleɪn] *n.* **1.** (*таксама* **aeroplane** *BrE*) самалёт; **a plane crash** авіякатастро́фа; **go by plane** ляце́ць самалётам; *The next plane to New-York departs in 20 minutes.* Наступны самалёт у Нью-Ёрк вылеціць праз 20 хвілін; *The plane landed in Geneva.* Самалёт прызямліўся ў Жэневе. **2.** пло́скасць **3.** узро́вень, ступе́нь **4.** ро́ўная паве́рхня

**plane²** [pleɪn] *adj.* пло́скі, ро́ўны

**plane³** [pleɪn] *v.* луна́ць (*пра птушку*)

**plane⁴** [pleɪn] *n. tech.* руба́нак

**plane⁵** [pleɪn] *v.* струга́ць, габлява́ць руба́нкам

**plane⁶** [pleɪn] *n. bot.* плата́н

**planet** [ˈplænɪt] *n.* плане́та; **the planet Earth** плане́та Зямля́; *Mercury is the smallest of all the planets.* Меркурый – самая маленькая з усіх планет. ♦ **be born under a lucky planet** нарадзі́цца пад шчаслі́вай зо́ркай; **be on another planet** не разуме́ць таго́, што відаво́чна ўсім; як з ме́сяца звалі́ўся; **what planet are you on?** *BrE, infml* з не́ба звалі́ўся?

**planetarium** [ˌplænɪˈteəriəm] *n.* планета́рый

**planetary** [ˈplænətri] *adj.* плане́тны; планета́рны; **a planetary system** Со́нечная сістэ́ма

**plank** [plæŋk] *n.* до́шка; брус; пла́нка

**plankton** [ˈplæŋktən] *n. biol.* планкто́н

**planner** [ˈplænə] *n.* чарцёжнік; праекта́нт, праекціро́ўшчык

**planning** [ˈplænɪŋ] *n.* **1.** планава́нне **2.** праектава́нне

**plant¹** [plɑːnt] *n.* раслі́на; **house/indoor/pot plants** ха́тнія раслі́ны; **garden plants** садо́выя раслі́ны; *Don't forget to water the plants.* Не забудзь паліць расліны.

**plant²** [plɑːnt] *v.* **1.** садзі́ць (*расліны*), заса́джваць; засе́йваць; **plant potatoes** садзі́ць бу́льбу; **plant a field with barley** засе́йваць по́ле ячме́нем **2. : plant doubts** пасе́яць сумне́нні

**plant out** [ˌplɑːntˈaʊt] *phr.v.* выса́джваць у грунт; пераса́джваць, пікі́раваць (*расліны*)

**plant³** [plɑːnt] *n.* **1.** заво́д; фа́брыка; **a huge chemical plant** вялі́кі хімі́чны заво́д; **a power plant** электраста́нцыя **2.** машы́ны, абсталява́нне

**plantain** [ˈplæntɪn] *n. bot.* трыпу́тнік

**plantation** [plɑːnˈteɪʃn] *n.* **1.** планта́цыя; **a coffee/banana plantation** ка́вавая/бана́навая планта́цыя **2.** насаджэ́нне, паса́дкі; **forestry plantations** лесанасаджэ́нні

**plaque** [plæk, plɑːk] *n.* до́шчачка, таблі́чка (*на дзвярах, сцяне і да т.п.*); **a memorial plaque** мемарыя́льная до́шка

**plasma** [ˈplæzmə] *n.* **1.** *biol.* пратапла́зма **2.** *med., phys.* пла́зма

**plasma screen** [ˌplæzməˈskriːn] *n.* пла́зменны экра́н

**plasma TV** [ˌplæzmətiːˈviː] *n.* пла́зменны тэлеві́зар

**plaster¹** [ˈplɑːstə] *n.* **1.** тынко́ўка **2.** (*таксама* **plaster of Paris**) гіпс **3.** лі́пкі, ліпу́чы пла́стыр; *I put plaster on my finger.* Я заклеіў палец пластырам.

**plaster²** [ˈplɑːstə] *v.* **1.** тынкава́ць; **plaster a wall** атынкава́ць, абтынкава́ць сцяну́ **2.** пакрыва́ць, абляпля́ць; *I was plastered with mud.* Я быў увесь у гразі.

**plaster cast** [ˈplɑːstəˌkɑːst] *n.* **1.** гі́псавы зле́пак **2.** *med.* гі́псавая павя́зка

**plastic¹** [ˈplæstɪk] *n.* пластма́са, пла́стык; **children's toys made of plastic** дзіця́чыя ца́цкі з пластма́сы

**plastic²** [ˈplæstɪk] *adj.* **1.** пластма́савы; пла́стыкавы; **a plastic spoon** пластма́савая лы́жка; **a plastic bag** пла́стыкавая су́мка **2.** *med.* пласты́чны, аднаўле́нчы; **plastic surgery** пласты́чная хірургі́я; **a plastic surgeon** пласты́чны хіру́рг **3.** які́ выгляда́е шту́чным (*неадабральна*); (і)лжы́вы, няшчы́ры, падро́блены, прытво́рны; **a plastic smile** шту́чная ўсме́шка

**plasticine** [ˈplæstəsiːn] *n. BrE* пласты́лін

**plate¹** [pleɪt] *n.* **1.** тале́рка; **a soup plate** глыбо́кая тале́рка; **a dinner plate** плы́ткая/ме́лкая тале́рка **2.** до́шчачка, таблі́чка **3.** фотапласці́нка **4.** пласці́нка; **a dental plate** устаўна́я скі́віца ♦ **hand/give smth. to smb. on a plate** уступа́ць што-н. каму́-н. дарма́; ≅ падава́ць што-н. каму́-н. на тале́рачцы/спо́дку/спо́дачку; **have enough/a lot/too much on one's plate** *infml* быць заня́тым па го́рла

**plate²** [pleɪt] *v.* **: plate smth. with gold/silver** пакрыва́ць што-н. зо́латам/срэ́брам; **a beauti-**

**ful necklace plated with gold** прыго́жыя пазало́чаныя кара́лі

**plateau** [ˈplætəʊ] *n.* (*pl.* **plateaux** *or* **plateaus**) плато́

**plateful** [ˈpleɪtfʊl] *n.* по́ўная тале́рка

**platform** [ˈplætfɔːm] *n.* **1.** платфо́рма, перо́н; *The train will depart from platform 6.* Цягнік адыходзіць ад платформы 6. **2.** трыбу́на, памо́ст, пляцо́ўка (*для прамоўцы*) **3.** прагра́ма, платфо́рма паліты́чнай па́ртыі

**platinum** [ˈplætɪnəm] *n.* пла́ціна

**platinum blonde** [ˌplætɪnəmˈblɒnd] *n.* ве́льмі све́тлая бландзі́нка

**platitude** [ˈplætɪtjuːd] *n.* бана́льнасць, збі́тая фра́за

**platitudinous** [ˌplætɪˈtjuːdɪnəs] *adj.* бана́льны

**platonic** [pləˈtɒnɪk] *adj.* платані́чны; **platonic love** платані́чнае каха́нне

**platoon** [pləˈtuːn] *n. mil.* узво́д

**platter** [ˈplætə] *n.* блю́да (*посуд*)

**plausible** [ˈplɔːzəbl] *adj.* **1.** праўдападо́бны, вераго́дны; *His explanation sounds fairly plausible to me.* Яго тлумачэнне здаецца мне даволі праўдападобным. **2.** які́ ўме́е выкліка́ць даве́р'е; **a plausible liar** ло́ўкі (і)лгу́н

**play**[1] [pleɪ] *n.* **1.** гульня́; **children at play** дзе́ці за гульнёй **2.** п'е́са, спекта́кль; **one of Shakespeare's best-known plays** адна́ з найбо́льш вядо́мых п'ес Шэкспі́ра **3.** *sport* гульня́; **fair play** гульня́ па пра́вілах/сумле́нная гульня́; **foul play** *BrE* гульня́ не па пра́вілах ♦ **a play on words** гульня́ слоў, каламбу́р; **in/out of play** у гульні́/па-за гульнёй; **make a play for smb./smth.** зачаро́ўваць каго́-н.; зрабі́ць усё магчы́мае, каб дабі́цца свайго́

**play**[2] [pleɪ] *v.* **1.** гуля́ць (*у розных знач.*); **play tennis/cards** гуля́ць у тэ́ніс/ка́рты; *France plays Spain in the final.* Французы гуляюць у фінале з іспанцамі. **2. : play a joke/a trick (on smb.)** паджарто́ўваць/падсме́йвацца (з каго́-н.); **play at democracy** гуля́ць у дэмакра́тыю **3.** *theatre, mus.* ігра́ць; **play the piano** ігра́ць на ражлі ♦ **play for time** спрабава́ць вы́йграць час; **play into smb.'s hands** ігра́ць на руку́/садзе́йнічаць каму́-н.

**play about** [ˌpleɪəˈbaʊt] *phr.v.* гуля́ць, дурэ́ць, гарэ́заваць

**play around** [ˌpleɪəˈraʊnd] *phr.v.* = **play about**

**play back** [ˌpleɪˈbæk] *phr.v.* узнаўля́ць (*магнітны, гука- або відэазапіс*)

**play off** [ˌpleɪˈɒf] *phr.v.* **1.** нацко́ўваць **2.** *sport* зако́нчыць спабо́рніцтвы

**player** [ˈpleɪə] *n.* **1.** ігро́к; спартсме́н; **a tennis player** тэнісі́ст; тэнісі́стка; **a chess player** шахматы́ст; шахматы́стка **2.** музыка́нт **3.** акцёр **4.** плэ́ер; прайграва́льнік; **a cassette player** касе́тны прайграва́льнік; **a CD player** плэ́ер для прайграва́ння кампа́кт-ды́скаў; **a DVD player** DVD-плэ́ер; **a record player** прайграва́льнік

**playful** [ˈpleɪfəl] *adj.* гарэ́злівы, дура́слівы, жартаўлі́вы; **a playful little dog** мале́нькі гарэ́злівы саба́чка

**playground** [ˈpleɪɡraʊnd] *n.* пляцо́ўка для гу́льняў

**playing card** [ˈpleɪŋˌkɑːd] *n.* ігра́льная ка́рта

**playmate** [ˈpleɪmeɪt] *n.* тава́рыш па дзіця́чых гу́льнях

**play-off** [ˈpleɪɒf] *n. sport* плэй-о́ф

**playwright** [ˈpleɪraɪt] *n.* драмату́рг

**plea** [pliː] *n. fml* **1. (for)** про́сьба; упро́шванне **2.** *law* апраўда́нне, падста́ва; зачэ́пка; **on the plea of** пад ма́ркай **3.** *law* афіцы́йная зая́ва

**plead** [pliːd] *v.* **1. (with)** прасі́ць, malі́ць; *They were pleading with him to stop.* Яны малілі яго спыніцца. **2.** прыво́дзіць у апраўда́нне, спасыла́цца; **plead guilty/not guilty** прызнава́ць/не прызнава́ць сябе́ вінава́тым **3.** прадстаўля́ць або́ абараня́ць (*чые-н.*) інтарэ́сы

**pleasant** [ˈpleznt] *adj.* прые́мны, мі́лы, сла́ўны; **a pleasant smell of flowers** прые́мны пах кве́так; **a pleasant woman** мі́лая жанчы́на; *Nora! What a pleasant surprise to see you!* Нора! Якая прыемная нечаканасць сустрэць цябе!

**pleasantly** [ˈplezntli] *adv.* прые́мна, мі́ла

**please**[1] [pliːz] *v.* **1.** задавальня́ць, дагаджа́ць; *Do it to please me.* Зрабі гэта дзеля мяне; *You can't please everybody.* Усім не дагодзіш; *Nothing pleases him*. Нічога яму не падабаецца. **2.** хаце́ць, аддава́ць перава́гу; *Take as you please.* Бяры колькі хочаш. ♦ **if you please** *dated* 1) калі́ ла́ска 2) уяві́це сабе́; **please yourself** *infml* як сабе́ хо́чаш

**please**[2] [pliːz] *adv.* **1.** калі́ ла́ска (*у просьбах*); **please be quiet** цішэ́й, калі́ ла́ска **2.** *таксама* **yes, please** (так) дзя́кую; *A cup of coffee?* – (*Yes*) *please.* Кубачак кавы? – Дзякую.

**pleased** [pliːzd] *adj.* **(with)** задаво́лены, даво́льны; *They are pleased with the results.* Яны задаволены вынікамі.

**pleasing** [ˈpliːzɪŋ] *adj.* прые́мны, прыва́бны

**pleasurable** [ˈpleʒərəbl] *adj.* прые́мны; які́ прыно́сіць задавальне́нне; **a pleasurable activity** прые́мны заня́так

**pleasure** [ˈpleʒə] *n.* **1.** задавальне́нне; прые́мнасць; **take pleasure in doing smth.** рабі́ць што-н. з задавальне́ннем; *It's a pleasure to me.* Мне прыемна. **2.** заба́ва, адпачы́нак; *Are you*

*here on business or for pleasure?* Вы тут па справе ці адпачываеце? **3.** (*у ветлівых адказах*) **:** *Thank you for helping me. – My pleasure./It was a pleasure.* Дзякуй за дапамогу. – Калі ласка; *Will you take it along to the office? – With pleasure.* Ці не аднесяце вы гэта ў офіс? – Безумоўна.

**pleat** [pliːt] *n.* **1.** склáдка **2.** *pl.* **pleats** плісэ́

**pleated** [ˈpliːtɪd] *adj.* зрóблены ў склáдку; плісіравáны, плісірóваны; **a pleated skirt** спаднíца ў склáдку

**pledge¹** [pledʒ] *n.* **1.** абяцáнне; абавязáцельства **2.** залóг, заклáд; **leave in pledge** пакідáць у заклáдзе; **a pledge of love** залóг кахáння ♦ **sign/take the pledge** *dated* даць зарóк не піць

**pledge²** [pledʒ] *v.* **1.** абяцáць; давáць абяцáнні **2.** аддавáць у заклáд

**plenipotentiary** [ˌplenɪpəˈtenʃəri] *n.* паўнамóцны прадстаўнíк

**plentiful** [ˈplentɪfəl] *adj.* багáты, шчóдры; **plentiful supply** вялíкі запáс; *Opportunities to practise the language are plentiful.* Магчымасці папрацаваць з мовай − вялікія.

**plenty¹** [ˈplenti] *n.* **1.** дастáтак, багáцце; **in plenty** у вялíкай кóлькасці, дастаткóва **2.** *fml* мнóства, бéзліч; **plenty of food/money/time** шмат éжы/грóшай/чáсу; *£5 is plenty.* Пяці фунтаў хопіць.

**plenty²** [ˈplenti] *adv.* шмат, дастаткóва; цáлкам, зусíм

**pleonasm** [ˈpliːənæzəm] *n. ling.* плеанáзм, шматслóўе

**pleura** [ˈplʊərə] *n.* (*pl.* **pleurae**) плéўра

**pleurae** [ˈplʊəri] *pl.* → **pleura**

**pliant** [ˈplaɪənt] *adj.* падáтлівы ўплы́ву; гíбкі

**pliers** [ˈplaɪəz] *n. pl.* пласкагýбцы, кусáчкі

**plight** [plaɪt] *n.* незайздрóснае станóвішча

**plimsolls** [ˈplɪmsəlz] *n. BrE pl.* кéды, спарты́ўныя тýфлі

**plod** [plɒd] *v.* **1.** брысцí, цягнýцца; плéсціся (*таксама перан.*); *The children were plodding through the snow.* Дзеці брылі па снезе. **2.** карпéць, гарбéць

**plop¹** [plɒp] *n.* гук падзéння ў вадý без усплёску; *The soap fell into the bath with a loud plop.* Мыла гучна шлёпнулася ў ванну.

**plop²** [plɒp] *v.* шлёпнуцца, плюхнуцца

**plosive** [ˈpləʊsɪv] *adj. ling.* выбухны́ гук

**plot¹** [plɒt] *n.* **1.** фáбула, сюжэ́т **2.** зямéльны ўчáстак **3.** змóва ♦ **the plot thickens** спрáва заблы́тваецца ўсё больш і больш

**plot²** [plɒt] *v.* замышля́ць, рыхтавáць змóву

**plough¹** [plaʊ] *n. BrE* **1.** плуг **2.** раллá, узарáная зямлá **3. the Plough** *BrE, astron.* Вялíкая Мядзвéдзіца ♦ **under the plough** *BrE, fml* пад вóрывам

**plough²** [plaʊ] *v. BrE* арáць; **plough up a field** узарáць пóле

**plow** [plaʊ] *AmE* = **plough**

**pluck¹** [plʌk] *n. infml* мýжнасць, адвáга

**pluck²** [plʌk] *v.* **1.** абшчы́пваць, абскýбваць; **pluck a goose** абскýбці гусь **2.** *dated or lit.* зрывáць; збірáць; **pluck a rose/an apple** сарвáць рýжу/я́блык **3.** выскýбваць; выдзірáць; *She plucked a thread off the lapel of his jacket.* Яна выцягнула нітку з лацкана яго пінжака. ♦ **pluck up (the) courage** набрáцца смéласці

**plucky** [ˈplʌki] *adj. infml* смéлы, рашýчы

**plug¹** [plʌg] *n.* **1.** штэ́псельная вíлка **2.** зáтычка, заглýшка; кóрак

**plug²** [plʌg] *v.* **1. (up)** затыкáць, закаркóўваць, зашпунтóўваць **2.** рэкламавáць

**plug away** [ˌplʌgəˈweɪ] *phr.v.* **(at)** карпéць

**plug in** [ˌplʌgˈɪn] *phr.v.* уключáць (*у сетку*); устаўля́ць; убудóўваць; *I don't think the antenna's plugged in right*. Я мяркую, што антэна падключана няправільна.

**plughole** [ˈplʌghəʊl] *n.* **1**. *BrE* адтýліна ў ванне, ракавіне **2.** *electr.* штэ́псельнае гняздó

**plug-in** [ˈplʌgɪn] *n. comput.* убудавáны мóдуль; прагрáмнае расшырэ́нне

**plum¹** [plʌm] *n.* **1.** *bot.* слíвавае дрэ́ва, слíва **2.** слíва (*плод*)

**plum²** [plʌm] *adj.* **1.** слíвавы (*пра колер*); кóлеру спéлай слíвы **2. : a plum job** цёплае мéсцейка (*пра працу*)

**plumber** [ˈplʌmə] *n.* слéсар-сантэ́хнік; водапрабóдчык

**plumbing** [ˈplʌmɪŋ] *n.* **1.** водаправóд, сантэ́хніка; *We keep having problems with the plumbing.* У нас праблемы з сантэхнікай. **2.** слясáрна-водаправóдная спрáва

**plump¹** [plʌmp] *adj.* **1.** пóўны; пýхлы; акрýглы; **plump shoulders** акрýглыя плéчы; **get plump** распаўнéць **2.** панапíхáны, пýхлы; *The book is plump with examples and citations*. У кнізе бясконцае мноства прыкладаў і цытат.

**plump²** [plʌmp] *v.* **1.** выкóрмліваць; выгадóўваць; *They plump fowls for sale.* Яны выкормліваюць птушку на продаж. **2.** рабіць пýхлым, акрýглым; **plump up the pillows** узбівáць падýшкі **3.** таўсцéць, паўнéць; *She has plumped out.* Яна распаўнела.

**plump³** [plʌmp] *v.* **(for)** *infml* выбірáць (*каго-н./што-н.*)

**plumpish** [ˈplʌmpɪʃ] *adj.* паўнавáты; акрýглы

**plumpness** [ˈplʌmnəs] *n.* паўнатá; акрýгласць

**plum pudding** [ˌplʌmˈpʊdɪŋ] *n. BrE, dated* пламп́удынг, разы́нкавы пу́дынг

**plumpy** [ˈplʌmpi] *adj.* пу́хлы; по́ўны; акру́глы

**plunder**[1] [ˈplʌndə] *n.* **1.** грабе́ж; рабу́нак, рабава́нне; разбо́й **2.** здабы́ча; нарабава́нае, награ́бленае

**plunder**[2] [ˈplʌndə] *v.* **1.** гра́біць, рабава́ць; **plunder a town** разгра́біць го́рад **2.** раскрада́ць

**plunge**[1] [plʌndʒ] *n.* **1.** імклі́вы кідо́к **2.** ныра́нне ♦ **take the plunge** *infml* адва́жыцца, зрабі́ць рашу́чы крок

**plunge**[2] [plʌndʒ] *v.* **1.** акуна́ць, апуска́ць; **plunge one's hand into a pocket** засу́нуць руку́ ў кішэ́ню **2.** зніжа́цца, апуска́цца (*пра цану, тэмпературу і да т.п.*) **3.** ныра́ць, дава́ць нырца́ **4. (into)** кі́дацца, урыва́цца; ры́нуцца; *He plunged into the room and started shouting.* Ён уварваўся ў пакой і пачаў крычаць. **5. (into)** уця́гваць; ўганя́ць; уво́дзіць; **plunge a country into a war** уцягну́ць краі́ну ў вайну́

**plural**[1] [ˈplʊərəl] *n. ling.* мно́жны лік; **in the plural** у мно́жным лі́ку

**plural**[2] [ˈplʊərəl] *adj.* **1.** *ling.* мно́жны **2.** шматлі́кі

**pluralism** [ˈplʊərəlɪzəm] *n. fml, philos*. плюралі́зм

**pluralist**[1] [ˈplʊərəlɪst] *n.* **1.** плюралі́ст **2.** прыхі́льнік тэо́рыі шматнацыяна́льнай або́ шматра́савай дзяржа́вы

**pluralist**[2] [ˈplʊərəlɪst] *adj.* плюралісты́чны

**plurality** [plʊəˈræləti] *n.* **1.** *fml* мно́жнасць **2.** бо́льшасць; бо́льшасць галасо́ў

**pluralize,** *BrE* **-ise** [ˈplʊərəlaɪz] *n. ling*. утвара́ць фо́рму мно́жнага лі́ку

**plus**[1] [plʌs] *n.* **1.** *infml* плюс; до́брая я́касць, го́днасць; *His experience is a big plus.* Яго вопыт – вялікі плюс. **2.** даба́вачная, дадатко́вая ко́лькасць **3.** *math.* (*таксама* **plus sign**) знак плюс (+)

**plus**[2] [plʌs] *adj.* **1.** даба́вачны, дадатко́вы; **plus sale** дадатко́вы распро́даж **2.** *math., electr.* дада́тны; **plus terminal** дада́тная кле́ма

**plus**[3] [plʌs] *prep.* плюс; *Three plus five equals eight.* Тры плюс пяць роўна васьмі; *The book has 250 pages, plus 28 pages of appendices.* Кніга налічвае 250 старонак, плюс 28 старонак дадатку. ♦ **plus or minus** плюс-мі́нус

**plus fours** [ˌplʌsˈfɔːz] *n. pl. BrE* штаны́ гольф

**plush**[1] [plʌʃ] *n.* **1.** плюш; пліс **2.** *pl.* плі́савыя штаны́

**plush**[2] [plʌʃ] *adj.* **1.** плю́шавы; плі́савы **2.** *infml* дарагі́, шыко́ўны; **a plush hotel** шыко́ўны гатэ́ль

**Pluto** [ˈpluːtəʊ] *n. astron.* Плуто́н (*планета*)

**plutocracy** [pluːˈtɒkrəsi] *n.* плутакра́тыя

**plutocrat** [ˈpluːtəkræt] *n.* плутакра́т

**plutonium** [pluːˈtəʊniəm] *n. chem.* плуто́ній; **a plutonium reactor** рэактар для вы́рабу плуто́нію

**ply**[1] [plaɪ] *n.* слой, пласт, сто́лка

**ply**[2] [plaɪ] *v.* **1.** *lit.* хадзі́ць, курсі́раваць; снава́ць (*пра караблі, аўтобусы і да т.п.*); *Small fishing boats plied to and fro across the harbour.* Невялічкія рыбацкія лодкі курсіравалі па гавані. **2.** займа́цца (*якой-н. дзейнасцю*); працава́ць стара́нна (*чым-н.*); **ply a spade** працава́ць рыдлёўкай; **ply one's oars** наляга́ць на вёслы **3. (with)** частава́ць (*чым-н.*) **4. (with)** дакуча́ць, прыстава́ць з распы́тваннямі ♦ **ply one's trade** займа́цца чым-н. (*рамяством, бізнесам і да т.п.*)

**plywood** [ˈplaɪwʊd] *n.* фане́ра; **plywood furniture** мэ́бля з фане́ры

**PM** [ˌpiːˈem] *infml* (*скар. ад* **Prime Minister**) прэм'е́р-мініс́тр; **an urgent meeting with the PM** тэрміно́вая нара́да з прэм'е́р-міні́страм

**p.m.** [ˌpiːˈem] (*скар. ад* **post meridiem**) папаўдні́; **6 p.m.** шэсць гадзі́н ве́чара (васямна́ццаць гадзі́н); *The conference starts at 2 p.m.* Канферэнцыя пачынаецца а другой гадзіне папаўдні.

**pneumatic** [njuːˈmætɪk] *adj. tech.* пнеўматы́чны, паве́траны; **pneumatic tyres** пнеўматы́чныя шы́ны

**pneumatic drill** [njuːˌmætɪkˈdrɪl] *n.* пнеўматы́чны све́рдзел

**pneumonia** [njuːˈməʊniə] *n. med.* пнеўмані́я, запале́нне лёгкіх

**PO** [ˌpiːˈəʊ] **1.** (*скар. ад* **Post Office**) по́шта, пашто́вае аддзяле́нне **2.** (*скар. ад* **postal order**) грашо́вы пашто́вы перавод́; **a £ 200 PO** грашо́вы пашто́вы перавод́ на 200 фу́нтаў

**poach** [pəʊtʃ] *v.* **1.** гатава́ць я́йкі ў спецыя́льнай пасу́дзіне над кіпя́чай вадо́й; вары́ць мя́са альбо́ ры́бу ў кі́пені **2.** палява́ць без дазво́лу, займа́цца браканье́рствам **3.** перама́ньваць (*каго-н.*) на свой бок; *Foreign football clubs seem to be poaching all our best players.* Здаецца, замежныя футбольныя клубы пераманьваюць нашых лепшых ігракоў. **4.** незако́нна перайма́ць, прысво́йваць

**poacher** [ˈpəʊtʃə] *n.* **1.** браканье́р **2.** пасу́дзіна для ва́ркі я́ек, ры́бы, фру́ктаў у кі́пені

**PO box** [ˌpiːˈəʊbɒks] *n.* (*таксама* **post office box**) абане́нцкая скры́нка

**pocket**[1] [ˈpɒkɪt] *n.* **1.** кішэ́нь; *Joseph always stands with his hands in his pockets.* Джозеф заўсёды стаіць, трымаючы рукі ў кішэнях.

**2.** кішэ́нька (*для карт, табліц, фотаздымкаў і да т.п.*) **3.** гро́шы, сро́дкі **4.** упа́дзіна, я́мка **5.** раён, зо́на **6.** лу́за більярда ♦ **be in smb.'s pocket** быць у рука́х у каго́-н.; **be/live in each other's pockets** *BrE* вадо́й не разалье́ш; **in pocket** быць у вы́йгрышы; **out of pocket** цярпе́ць стра́ту; **have smb. in one's pocket** трыма́ць каго́-н. у рука́х

**pocket²** [ˈpɒkɪt] *adj.* кішэ́нны; партаты́ўны; мініяцю́рны

**pocket³** [ˈpɒkɪt] *v.* **1.** кла́сці (*што-н.*) у кішэ́ню **2.** прысво́йваць **3.** зарабі́ць, атрыма́ць прыбы́так; вы́йграць гро́шы

**pocket-book** [ˈpɒkɪtbʊk] *n.* **1.** запісна́я кні́жка **2.** *AmE* бума́жнік

**pocketful** [ˈpɒkɪtfʊl] *n.* по́ўная кішэ́ня (*чаго-н.*)

**pocket knife** [ˈpɒkɪtnaɪf] *n.* сцізо́рык

**pocket money** [ˈpɒkɪtmʌni] *n.* кішэ́нныя гро́шы

**pocket-size(d)** [ˈpɒkɪtsaɪz(d)] *adj.* невялі́кага паме́ру; кішэ́ннага фарма́ту

**pockmark¹** [ˈpɒkmɑːk] *n.* во́спіна, я́мачка (*пасля воспы*)

**pockmark²** [ˈpɒkmɑːk] *v.* **1.** пакіда́ць сляды́/ме́ткі **2.** зняве́чваць, нявечыць; псава́ць

**pock-marked** [ˈpɒkmɑːkt] *adj.* рабы́, з во́спінкамі

**pod¹** [pɒd] *n.* **1.** струк **2.** шалупі́нне, луска́

**pod²** [pɒd] *v.* **1.** дава́ць стручкі́; пакрыва́цца стручка́мі **2.** лу́шчыць, луза́ць, лу́згаць (*гарох*)

**podgy** [ˈpɒdʒi] *adj. BrE, infml* **1.** ні́зенькі, то́ўсты, прыса́дзісты **2.** каро́ткі і то́ўсты (*пра пальцы*); **podgy arms/hands** пу́хленькія ру́кі

**podium** [ˈpəʊdiəm] *n.* по́дыум

**pod-pepper** [ˈpɒdpepə] *n.* стру́кавы пе́рац

**poem** [ˈpəʊɪm] *n.* верш; паэ́ма

**poet** [ˈpəʊɪt] *n.* паэ́т; паэтэ́са

**poetess** [ˌpəʊɪˈtes] *n. dated* паэтэ́са

**poetic(al)** [pəʊˈetɪk(l)] *adj.* **1.** паэты́чны, які́ ма́е адно́сіны да паэ́зіі; **poetic style** паэты́чны стыль; **poetic language** мо́ва паэ́зіі **2.** паэты́чны, узвы́шаны; **poetic love** узвы́шанае, паэты́чнае каха́нне; **a poetical person** паэты́чная нату́ра **3.** вершава́ны; **a poetical play** п'е́са ў ве́ршах

**poetically** [pəʊˈetɪkli] *adv.* **1.** у вершава́най фо́рме **2.** паэты́чна, узвы́шана

**poetic justice** [pəʊˌetɪkˈdʒʌstɪs] *n.* справядлі́вае пакара́нне

**poetic licence** [pəʊˌetɪkˈlaɪsns] *n.* паэты́чная во́льнасць

**poetics** [pəʊˈetɪks] *n.* паэ́тыка; тэо́рыя паэ́зіі

**Poet Laureate** [ˌpəʊɪtˈlɔːriət] *n.* **1.** прыдво́рны паэ́т, які́ пі́ша ве́ршы на ўрачы́стую падзе́ю **2.** паэ́т-лаўрэа́т; найбо́льш вядо́мы паэ́т (*у краіне, рэспубліцы і да т.п.*)

**poetry** [ˈpəʊətri] *n.* **1.** паэ́зія **2.** што-н. паэты́чнае, цудо́ўнае

**po-faced** [ˈpəʊfeɪst] *adj. BrE, infml* фанабэ́рысты, самазадаво́лены; тупы́

**pogrom** [ˈpɒgrəm] *n.* пагро́м

**poignant** [ˈpɔɪnjənt] *adj.* **1.** го́ркі, паку́тлівы; **poignant tears** го́ркія слёзы **2.** во́стры, е́дкі (*з'едлівы*), калю́чы; **poignant sarcasm** во́стры сарка́зм

**point¹** [pɔɪnt] *n.* **1.** спра́ва, пыта́нне; галоўнае, сэнс, значэ́нне, су́тнасць, (*характэрная*) ры́са; **miss the point** не зразуме́ць сэ́нсу; **that's just the point** сапраўды́, (вось) і́менна, у тым вось (якра́з) і спра́ва; **that's not the point** спра́ва не ў гэ́тым **2.** кро́пка, пункт, дзяле́нне шкалы́; **the boiling/freezing point** кро́пка кіпе́ння/замярза́ння **3.** пункт, ме́сца; **a point of departure** пункт адпраўле́ння **4.** мо́мант; **at this point** у гэ́ты мо́мант; *She's on the point of leaving.* Яна збіраецца пайсці; **at/on the point of death** пры сме́рці **5.** вастрыё, кане́ц; **a needle/pencil point** ко́нчык іго́лкі/ало́ўка **6.** кро́пка (*якая аддзяляе дзесятковы знак ад цэлага ліку*); **four point six (4.6)** чаты́ры цэ́лыя і шэсць дзяся́тых **7.** *sport* ачко́ ♦ **if/when it comes to the point** калі́ дахо́дзіць да спра́вы; *When it came to the point he couldn't face it.* Калі дайшло да справы, ён спужаўся; **make a point of doing smth.** лічы́ць што-н. ва́жным, істо́тным; **a point of honour** спра́ва го́нару; **up to a (certain) point** у пэ́ўнай ступе́ні

**point²** [pɔɪnt] *v.* **1. (at/to)** пака́зваць (*пальцамі*) **2. (at)** накіро́ўваць; цэ́ліцца; **point a gun at smb./smth.** цэ́ліцца ў каго́-н./што-н. **3. (to)** све́дчыць (*аб чым-н.*) ♦ **point a/the finger (at smb.)** абвінава́чваць (каго́-н.)

**point out** [ˌpɔɪntˈaʊt] *phr.v.* **1.** ука́зваць **2.** зазнача́ць; падкрэ́сліваць

**point-blank¹** [ˌpɔɪntˈblæŋk] *adj.* **1.** ва ўпор (*пра стрэл*) **2.** катэгары́чны

**point-blank²** [ˌpɔɪntˈblæŋk] *adv.* катэгары́чна; наадрэ́з; **refuse point-blank** катэгары́чна адмо́віцца

**pointed** [ˈpɔɪntɪd] *adj.* **1.** заво́страны; вастрано́сы; *He was a short man with a pointed beard.* Ён быў невысокага росту з завостранай барodкай. **2.** калю́чы, з'е́длівы; **a pointed remark** шпі́лька

**pointer** [ˈpɔɪntə] *n.* **1.** *infml* намёк; пара́да; падка́зка **2.** ука́зка **3.** паказа́льнік; стрэ́лка (*вымяральнага прыбора*) **4.** по́йнтар (*парода паляўнічых сабак*) **5.** *comput.* паказа́льнік, спасы́лка

**pointless** [ˈpɔɪntləs] *adj.* бяссэ́нсавы; бязмэ́тны; *It's pointless talking about it.* Няма сэнсу гаварыць пра гэта; *Life just seemed so pointless.* Жыццё здавалася зусім бяссэнсавым.

**point of view** [ˌpɔɪntəvˈvjuː] *n.* пункт по́гляду/гле́джання; *I respect your point of view, but I can't agree with you.* Я паважаю твой пункт погляду, але не магу пагадзіцца з табой.

**poise**[1] [pɔɪz] *n.* **1.** ураўнава́жанасць; вы́трымка, самавало́данне; *Travelling around Europe by herself seems to have given Louisa more poise and confidence.* Самастойнае падарожжа па Еўропе, здаецца, надало Луізе больш ураўнаважанасці і ўпэўненасці. **2.** мане́ра трыма́цца, по́стаць **3.** раўнава́га, усто́йлівасць; **lose one's poise** стра́ціць раўнава́гу

**poise**[2] [pɔɪz] *v.* утры́мліваць/утры́млівацца ў раўнава́зе; балансава́ць; *He poised himself on his toes.* Ён стаяў на дыбачках.

**poised** [pɔɪzd] *adj.* **1.** ураўнава́жаны (*пра чалавека*); які́ паво́дзіць сябе́ з го́днасцю; які́ не тра́ціць самавало́дання **2.** які́ знахо́дзіцца ў раўнава́зе **3.** які́ калы́шацца; які́ го́йдаецца, гайда́ецца **4.** вісячы, падве́-шаны

**poison**[1] [ˈpɔɪzn] *n.* яд, атру́та; *These mushrooms contain a deadly poison.* У гэтых грыбах ёсць смяротны яд. ♦ **what's your poison?** *infml, hum.* яку́ю атру́ту жада́еце?; што бу́дзеце піць?

**poison**[2] [ˈpɔɪzn] *v.* атру́чваць; **poisoned arrows** атру́чаныя стрэ́лы; *He feared that someone had poisoned his food.* Ён баяўся, што хтосьці атруціў яго яду.

**poisonous** [ˈpɔɪzənəs] *adj.* **1.** ядаві́ты, атру́тны; такс́ічны; шко́дны; **poisonous mushrooms/snakes** ядаві́тыя грыбы́/зме́і; *This gas is highly poisonous.* Гэта высокатаксічны газ. **2.** з'е́длівы, зласлі́вы; агі́дны, бры́дкі

**poke**[1] [pəʊk] *n.* **1.** штуршо́к, штурхе́ль; *Vanessa gave me a poke in the ribs.* Ванэса штурхнула мяне ў бок. **2.** разграба́нне вуго́лляў; *Give the fire a poke, please.* Паварушы вуголле, калі ласка. ♦ **take a poke at smb./smth.** *AmE, dated, infml* смяя́цца з каго́-н./чаго́-н.

**poke**[2] [pəʊk] *v.* со́ваць, шту́рхаць, ты́каць; **poke the fire** мяша́ць, варушы́ць вуго́лле; *He poked his head out of the window.* Ён высунуў галаву ў акно. ♦ **poke fun at smb./smth.** высме́йваць каго́-н./што-н.; жартава́ць, насміха́цца з каго́-н./чаго́-н.; **poke one's nose into smth./smb.'s affairs** *infml* со́ваць свой нос у чужы́я спра́вы, уме́швацца ў што-н.

**poker**[1] [ˈpəʊkə] *n.* **1.** по́кер (*картачная гульня*) **2.** качарга́; інструме́нт для шурава́ння

**poker**[2] [ˈpəʊkə] *v.* **1.** мяша́ць качарго́й **2.** выпа́львацъ па дрэ́ве або́ ску́ры

**poky** [ˈpəʊki] *adj. infml* **1.** це́сны; убо́гі (*пра памяшканне*) **2.** малава́жны; нязна́чны

**polar** [ˈpəʊlə] *adj.* **1.** паля́рны; **polar lights** паўно́чнае ззя́нне; *As our climate warms up, the polar ice caps will begin to melt.* З пацяпленнем клімату пачнуць раставаць палярныя ільды. **2.** *phys*. паля́рны, по́люсны **3.** ца́лкам супрацьле́глы

**polar bear** [ˈpəʊləˌbeə] *n. zool.* бе́лы, паля́рны мядзве́дзь

**polar fox** [ˈpəʊləˌfɒks] *n. zool.* пясе́ц

**polarity** [pəˈlærəti] *n.* **1.** *fml* паля́рнасць, по́ўная проціле́гласць **2.** *phys*. паля́рнасць

**pole**[1] [pəʊl] *n.* по́люс (*у розных знач.*); **the North Pole** Паўно́чны по́люс; **the South Pole** Паўднёвы по́люс ♦ **poles apart** по́ўная проціле́гласць; *They are poles apart.* Яны як два полюсы.

**pole**[2] [pəʊl] *n.* шост, кол; **a telegraph pole** тэлегра́фны слуп; **the pole vault** скачо́к з шасто́м

**Pole** [pəʊl] *n.* паля́к; по́лька

**polemic**[1] [pəˈlemɪk] *n. fml* пале́міка, спрэ́чка; дыску́сія

**polemic**[2] [pəˈlemɪk] *adj.* палемі́чны, спрэ́чны; **polemic bitterness** палемі́чная вастрыня́

**polemical** [pəˈlemɪkl] *adj. fml* палемі́чны

**polemicist** [pəˈlemɪsɪst] *n. fml* палемі́ст, спрача́льнік

**Pole Star** [ˈpəʊlˌstɑː] *n.* **the Pole Star** *astron.* Паля́рная зо́рка

**police**[1] [pəˈliːs] *n. pl.* палі́цыя; **a police car** паліцэ́йскі аўтамабіль

**police**[2] [pəˈliːs] *v.* падтры́мліваць пара́дак (*пры дапамозе паліцыі*); не́сці (паліцэ́йскую) слу́жбу

**police commissioner** [pəˌliːskəˈmɪʃənə] *n.* камісáр палі́цыі

**police constable** [pəˌliːsˈkʌnstəbl] *n.* паліцэ́йскі, канстэ́бль

**policeman** [pəˈliːsmən] *n.* (*pl.* **-men**) паліцэ́йскі

**police officer** [pəˈliːsˌɒfɪsə] *n.* паліцэ́йскі, канстэ́бль

**police state** [pəˈliːsˌsteɪt] *n.* паліцэ́йская дзяржа́ва

**police station** [pəˈliːsˌsteɪʃn] *n.* паліцэ́йскі ўча́стак

**policewoman** [pəˈliːswʊmən] *n.* (*pl.* **-women**) жанчы́на-паліцэ́йскі

**policy**[1] [ˈpɒləsi] *n.* **1. (on)** палі́тыка (*курс дзеяння*); **foreign/domestic policy** зне́шняя/уну́траная палі́тыка; **conduct/pursue/carry out a**

**policy** право́дзіць палі́тыку **2.** *fml* палі́тыка, лі́нія паво́дзін, курс; страт́эгія ♦ *Honesty is the best policy.* Сумленнасць – лепшая палітыка.

**policy²** [ˈpɒləsi] *n.* страхавы́ по́ліс

**polio** [ˈpəʊliəʊ] *n. med.* (*скар. ад* **poliomyelitis**) поліяміэлі́т

**poliomyelitis** [ˌpəʊliəʊmaɪəˈlaɪtɪs] *n. med.* поліяміэлі́т

**polish¹** [ˈpɒlɪʃ] *n.* **1.** паліро́ўка; паліраванне, шліфава́нне; **2.** палітýра; лак; **furniture polish** лак для мэ́блі; **floor polish** масці́ка або́ лак для падло́гі; **shoe polish** ва́кса; крэм для абу́тку; **nail polish** лак для но́гцяў/пазно́гцяў **3.** вы́танчанасць; лоск

**polish²** [ˈpɒlɪʃ] *v.* **1.** паліравáць, чы́сціць; **polish furniture** паліравáць мэ́блю; **polish floor** націрáць падло́гу; **polish silver** чы́сціць срэ́бра **2. (up)** 1) шліфавáць; прыдавáць бляск 2) удасканáльваць; **polish up one's English** удасканáльваць англі́йскую мо́ву

**polish off** [ˌpɒlɪʃˈɒf] *phr.v. infml* **1.** забі́ць (*каго-н.*), распрáвіцца (*з кім-н.*); пазбáвіцца (*каго-н./ад каго-н.*) **2.** пакóнчыць, распрáвіцца (*з чым-н.*)

**Polish¹** [ˈpəʊlɪʃ] *n.* пóльская мóва

**Polish²** [ˈpəʊlɪʃ] *adj.* пóльскі

**polite** [pəˈlaɪt] *adj.* **1.** вéтлівы; **a polite refusal** вéтлівая адмóва; *What polite well-behaved children!* Якія ветлівыя, выхаваныя дзеці! **2.** вы́танчаны, элегáнтны, тóнкі

**politely** [pəˈlaɪtli] *adv.* вéтліва; ласкáва; далікáтна

**politeness** [pəˈlaɪtnəs] *adj.* вéтлівасць, пачцíвасць; ласкáвасць; далікáтнасць; вы́хаванасць

**politic** [ˈpɒlətɪk] *adj. fml* развáжны, развáжлівы; прадбáчлівы

**political** [pəˈlɪtɪkl] *adj.* **1.** палíты́чны; дзяржáўны; **a loss of political freedom** стрáта палíты́чнай свабóды; **political parties** палíты́чныя пáртыі; **political rights** палíты́чныя правы́ **2.** звя́заны з палíтыкай; **a political decision** палíты́чнае рашэ́нне

**political correctness** [pəˌlɪtklkəˈrektnəs] *n.* палíты́чная карэ́ктнасць

**political economy** [pəˌlɪtɪklɪˈkɒnəmi] *n.* палíты́чная эканóмія

**political geography** [pəˌlɪtɪkldʒiˈɒgrəfi] *n.* палíты́чная геагрáфія

**politically** [pəˈlɪtɪkli] *adv.* палíты́чна

**political prisoner** [pəˌlɪtɪklˈprɪznə] *n.* палíты́чны знявóлены

**politician** [ˌpɒləˈtɪʃn] *n.* палíтык; дзяржáўны, палíты́чны дзéяч; **a consummate politician** тóнкі палíтык

**politicize,** *BrE* **-ise** [pəˈlɪtɪsaɪz] *v.* **1.** займáцца палíтыкай **2.** надавáць палíты́чны харáктар

**politics** [ˈpɒlətɪks] *n.* **1.** палíтыка, палíты́чная дзéйнасць; *Politics has never interested me.* Палітыка мяне ніколі не цікавіла. **2.** палíты́чныя пóгляды; *What are your politics?* Якія ў вас палітычныя погляды?

**polka¹** [ˈpɒlkə] *n.* пóлька (*танец*)

**polka²** [ˈpɒlkə] *v.* танцавáць, скакáць пóльку

**polka dot** [ˈpɒlkəˌdɒt] *n.* **: a polka-dot dress** сукéнка ў гарóшак

**poll¹** [pəʊl] *n.* **1.** (*таксама* **the polls**) галасавáнне; **go to the polls** галасавáць на вы́барах **2.** (*таксама* **opinion poll**) апытáнне грамáдскай дýмкі; *A recent poll showed Labour well in the lead.* Нядаўняе апытанне грамадскай думкі паказала, што лідзіруюць лейбарысты. **3.** кóлькасць галасóў

**poll²** [pəʊl] *v.* **1.** правóдзіць апытáнне грамáдскай дýмкі **2.** галасавáць (*на выбарах*); атры́мліваць пэ́ўную кóлькасць галасóў; *He polled 500 votes.* Ён атрымаў 500 галасоў.

**pollen** [ˈpɒlən] *n. bot.* кветкавы пылóк

**polling** [ˈpəʊlɪŋ] *n.* галасавáнне; *Polling was heavy/light.* Прагаласавала многа/мала народу.

**polling booth** [ˈpəʊlɪŋˌbuːð] *n.* кабіна для галасавáння

**polling day** [ˈpəʊlɪŋˌdeɪ] *n. BrE* дзень вы́бараў

**polling station** [ˈpəʊlɪŋˌsteɪʃn] *n.* вы́барчы ўчáстак

**poll tax** [ˈpəʊltæks] *n.* падýшны падáтак

**pollutant** [pəˈluːtənt] *n.* забрýджвальнік

**pollute** [pəˈluːt] *v.* **(by/with)** забрýджваць (*паветра, ваду і да т.п.*)

**pollution** [pəˈluːʃn] *n.* **1.** забрýджванне; **environmental pollution** забрýджванне навакóльнага асярóддзя **2.** забрýджанасць

**polo** [ˈpəʊləʊ] *n. sport* пóла

**polo neck** [ˈpəʊləʊˌnek] *n. BrE* вадалáзка, свíтар

**polo shirt** [ˈpəʊləʊˌʃɜːt] *n.* мужчы́нская спарты́ўная кашýля з карóткімі рукавáмі (*тэніска*)

**poltergeist** [ˈpəʊltəgaɪst] *n.* палтэргéйст

**poly** [ˈpɒli] *n.* (*pl.* **polys**) *BrE, infml* політэхні́чны інстытýт або́ калéдж

**polyanthus** [ˌpɒliˈænθəs] *n. bot.* пры́мула

**polyclinic** [ˈpɒliklɪnɪk] *n. BrE* паліклі́ніка

**polyethylene** [ˌpɒliˈeθəliːn] *n. chem.* поліэтылéн

**polygamy** [pəˈlɪgəmi] *n.* палігáмія

**polyglot¹** [ˈpɒliglɒt] *n.* паліглóт

**polyglot²** [ˈpɒliglɒt] *adj. fml* шматмóўны; **a polyglot dictionary** шматмóўны слóўнік; **the polyglot Bible** Бі́блія з тэ́кстамі на нéкалькіх мóвах

**polygon** [ˈpɒlɪgən] *n. math.* многавугóльнік

**polyhedra** [ˌpɒliˈhiːdrə] *pl.* → **polyhedron**
**polyhedron** [ˌpɒliˈhiːdrən] *n.* (*pl.* **polyhedra** *or* **polyhedrons**) *math.* шматгра́ннік
**polymer** [ˈpɒlɪmə] *n. chem.* палімéр(ы)
**polyp** [ˈpɒlɪp] *n. med., zool.* палі́п
**polyphony** [pəˈlɪfəni] *n. mus.* поліфані́я, многагало́сcе
**polysemous** [ˌpɒliˈsiːməs] *adj. ling.* полісеманты́чны, шматзна́чны
**polysemy** [pəˈlɪsɪmi] *n. ling.* полісемі́я, мнагазна́чнасць, шматзна́чнасць
**polysyllabic** [ˌpɒlisɪˈlæbɪk] *adj. ling.* шматскладо́вы
**polysynthetic** [ˌpɒlisɪnˈθetɪk] *adj. ling.* полісінтэты́чны (*пра мову*)
**polytechnic¹** [ˌpɒliˈteknɪk] *n.* **1.** політэхні́чны інстыту́т або́ кале́дж **2.** палітэ́хнікум
**polytechnic²** [ˌpɒliˈteknɪk] *adj.* політэхні́чны
**polythene** [ˈpɒlɪθiːn] *n. BrE, chem.* поліэтыле́н; **a polythene bag** поліэтыле́навы паке́т
**pomegranate** [ˈpɒmɪgrænɪt] *n. bot.* грана́т
**pomelo** [ˈpɒmələʊ] (*таксама* **pummelo**) *n. bot.* (*pl.* **-os**) паме́ла
**pomposity** [pɒmˈpɒsəti] *n.* пампе́знасць; напы́шлівасць; ва́жнасць
**pompous** [ˈpɒmpəs] *adj.* пампе́зны; напы́шлівы; ва́жны
**pompously** [ˈpɒmpəsli] *adv.* **1.** бліску́ча, пампе́зна, пы́шна **2.** напы́шліва, высакамо́ўна
**poncho** [ˈpɒntʃəʊ] *n.* по́нча
**pond** [pɒnd] *n.* **1.** са́жалка **2. the pond** *hum.* Атланты́чны акія́н ♦ **across the pond** *infml* за акія́нам
**ponder** [ˈpɒndə] *v. fml* **1. (about/on/over)** абду́мваць, узва́жваць; *As I pondered over the whole business, an idea struck me.* Калі я абдумваў свае справы, мяне асяніла ідэя. **2.** развважа́ць, разду́мваць; *Lisa pondered for a while before answering.* Ліза паразважала крышку, перш чым адказаць.
**ponderous** [ˈpɒndərəs] *adj. fml* **1.** ну́дны; су́мны, марко́тны **2.** ця́жкі (*пра заданне, задачу*) **3.** масі́ўны; груба́сткі, гру́зны
**pond-fish** [ˈpɒndfɪʃ] *n.* са́жалкавая ры́ба; **pond-fish culture** са́жалкавае рыбаво́дства
**pond lily** [ˈpɒndˌlɪli] *n. bot.* гарла́чык; вадзяна́я лі́лія
**pong** [pɒŋ] *n. BrE, infml* смуро́д
**pontiff** [ˈpɒntɪf] *n. fml* **1.** Па́па Ры́мскі **2.** епі́скап, архірэ́й
**pontifical** [pɒnˈtɪfɪkl] *adj. fml* **1.** па́пскі **2.** епі́скапскі, архірэ́йскі
**pontoon** [pɒnˈtuːn] *n.* панто́н
**pony** [ˈpəʊni] *n. zool.* по́ні; малаpо́слы конь
**ponytail** [ˈpəʊniˌteɪl] *n.* жано́чая прычо́ска «ко́нскі хвост»
**pony-trekking** [ˈpəʊniˌtrekɪŋ] *n. BrE* прагу́лка на по́ні
**pooch** [puːtʃ] *n. infml* саба́ка; дварня́к
**poodle** [ˈpuːdl] *n.* пу́дзель (*парода сабак*)
**pooh** [puː] *interj.* фэ!; фу! (*перадае пагарду і агіду*)
**pool¹** [puːl] *n.* **1.** пла́вальны басе́йн; *Does the hotel have a pool?* Ёсць у гасцініцы басейн? **2.** лу́жа, лу́жына; **a pool of blood** лу́жына крыві́ **3.** са́жалка; вір **4.** аб'ядна́ны фонд
**pool²** [puːl] *v.* аб'ядно́ўваць у агу́льны фонд; збіра́ць гро́шы/ інфарма́цыю для агу́льнага карыста́ння; **pool interests** дзейнічаць ра́зам; **pool money** скла́двацца (*каб купіць што-н.*)
**poor¹** [pɔː, pʊə] *n. pl.* **the poor** бе́дныя лю́дзі, бедняки́
**poor²** [pɔː, pʊə] *adj.* **1.** бе́дны; **a poor man** бядня́к; **2.** дрэ́нны, ке́пскі; **of poor quality** дрэ́ннай я́касці; **poor health** сла́бае здаро́ўе; **poor harvest/crop** ні́зкі ўраджа́й; **be poor at smth.** быць сла́бым у чым-н.; *He's poor at maths.* Ён слабы ў матэматыцы. **3.** бе́дны, няшча́сны; *Poor you!* (Ах ты) небара́ка/ бедала́га!
**poorly¹** [ˈpɔːli, ˈpʊəli] *adj. BrE, infml* нездаро́вы; хво́ры; няду́жы; *I feel poorly.* Мне нездаровіцца; *He is looking very poorly.* Ён вельмі дрэнна выглядае.
**poorly²** [ˈpɔːli, ˈpʊəli] *adv.* **1.** бе́дна; дрэ́нна; **poorly lighted streets** сла́ба асве́тленыя ву́ліцы **2.** дрэ́нна; *She's doing poorly at school.* Яна дрэнна займаецца ў школе.
**poorness** [ˈpɔːnəs, ˈpʊənəs] *n.* **1.** бе́днасць; недастатко́васць **2.** мізэ́рнасць; убо́ства **3.** сла́басць (*пра здароўе*)
**pop¹** [pɒp] *n.* **1.** шчоўк; пстрык; адры́вісты гук вы́буху; хло́панне **2.** стрэл
**pop²** [pɒp] *v.* **1.** *BrE, infml* нечака́на вы́йсці; вы́скачыць; *Pat's just popped next door for ten minutes.* Пэт толькі што выскачыла да суседзяў на 10 хвілінак. **2.** хло́паць; з трэ́скам ло́пацца **3. (in)** забяга́ць, загля́дваць, заско́кваць **4. (out)** вы́лупіць во́чы **5.** нечака́на вытырка́цца, высо́ўвацца ♦ **pop your clogs** *BrE, hum.* паме́рці; **pop the question** *infml* прапанава́ць (*каму-н.*) вы́йсці за́муж/жані́цца
**pop off** [ˌpɒpˈɒf] *phr.v. infml* паме́рці, адкі́нуць канькі́, даць ду́ба
**pop³** [pɒp] *n.* **1.** (*таксама* **pop-music**) поп-му́зыка; **top of the pops** пе́сня – перамо́жца хітпара́да **2.** *AmE, infml* та́та ♦ **have/take a pop (at smb.)** *BrE, infml* атакава́ць (каго́-н.); засыпа́ць (*пытаннямі*)

**pop**[4] [pɒp] *adj.* папуля́рны; **a pop singer/concert** поп-спява́к/поп-канцэ́рт

**pop.** (*пісьмовае скар. ад* **population**) насе́льніцтва; **pop. 120 million** 120 мільёнаў насе́льніцтва

**pop art** [ˈpɒpɑːt] *n.* поп-а́рт, поп-маста́цтва

**popcorn** [ˈpɒpkɔːn] *n.* папко́рн; пра́жаная пу́хкая кукуру́за

**pope** [pəʊp] *n.* **1. the Pope** Па́па Ры́мскі **2.** *eccl.* епі́скап

**pop-eyed** [ˈpɒpaɪd] *adj. infml* **1.** вірлаво́кі, лупа́ты, зірка́ты **2.** з шыро́ка расплю́шчанымі вача́мі (*ад здзіўлення, спалоху і да т.п.*)

**pop-group** [ˈpɒpgruːp] *n.* поп-гру́па, невялі́кі анса́мбль эстра́днай му́зыкі, у тым лі́ку поп-му́зыкі; поп-анса́мбль

**popgun** [ˈpɒpgʌn] *n.* пуга́ч

**poplar** [ˈpɒplə] *n. bot.* тапо́ля

**pop music** [ˈpɒpˌmjuːzɪk] *n.* поп-му́зыка

**poppy** [ˈpɒpi] *n.* **1.** *bot.* мак **2.** ма́кавы ко́лер

**poppycock** [ˈpɒpikɒk] *n.* бязглу́здзіца

**poppy seeds** [ˈpɒpɪˌsiːdz] *n.* мак (*семя*)

**popular** [ˈpɒpjələ] *adj.* **1.** папуля́рны; **a popular song** папуля́рная пе́сня; **a popular name** распаўсю́джанае імя́; **a popular lecture** агульнадасту́пная ле́кцыя; **a popular edition** ма́савае выда́нне; *She is popular with her pupils.* Вучні яе любяць. **2.** наро́дны, грама́дскі; **popular opinion** грама́дская ду́мка; **popular vote** прамы́я/усеагу́льныя вы́бары

**popularity** [ˌpɒpjuˈlærəti] *n.* папуля́рнасць; **popularity with/among smb.** папуля́рнасць сяро́д каго́-н.; **win/gain/lose popularity** заваява́ць/здабы́ць/стра́ціць папуля́рнасць; *The actor's popularity has declined considerably.* Папулярнасць акцёра значна панізілася.

**popularize,** *BrE* **-ise** [ˈpɒpjələraɪz] *v.* **1.** папулярызава́ць, распаўсю́джваць; *His new principles were popularized in a number of articles.* Яго новыя прынцыпы былі распаўсюджаны ў шэрагу артыкулаў. **2.** выклада́ць папуля́рна, у агульнадасту́пнай фо́рме; **popularize science** папулярызава́ць наву́ку

**popularly** [ˈpɒpjələli] *adv.* **1.** папуля́рна; **a popularly written encyclopedia** папуля́рна напі́саная энцыклапе́дыя **2.** усенаро́дна; **popularly accepted** усі́мі прыня́ты, прызна́ны; *Vitamin C is popularly believed to prevent colds.* Звычайна лічыцца, што вітамін С прадухіляе прастуду.

**populate** [ˈpɒpjuleɪt] *v.* насяля́ць, засяля́ць; **populate an island** засяля́ць во́страў; **densely/thickly populated areas** густанасе́леныя раёны; **sparsely populated areas** маланасе́леныя раёны; *The northern islands are sparsely populated.* Паўночныя астравы маланаселеныя.

**population** [ˌpɒpjuˈleɪʃn] *n.* насе́льніцтва; **adult/working/rural population** даро́слае/працаздо́льнае/се́льскае насе́льніцтва; *It's a city with a population of over two million.* Гэта горад з насельніцтвам больш за два мільёны чалавек; *What is the population of Spain?* Якое насельніцтва Іспаніі?

**populism** [ˈpɒpjəlɪzəm] *n.* папулі́зм

**populist**[1] [ˈpɒpjəlɪst] *n.* **1.** папулі́ст **2.** *hist.* наро́днік (*у Расіі*)

**populist**[2] [ˈpɒpjəlɪst] *adj.* **1.** папулі́сцкі **2.** *hist.* наро́дніцкі (*у Расіі*)

**populous** [ˈpɒpjələs] *adj. fml* мнагалю́дны, шматлю́дны; густанасе́лены; *Hong Kong is one of the most populous areas in the world.* Ганконг – адна з самых густанаселеных тэрыторый у свеце.

**pop wine** [ˈpɒpwaɪn] *n.* сало́дкае віно́ (*асабліва фруктовае*)

**porcelain**[1] [ˈpɔːsəlɪn] *n.* **1.** фарфо́р **2.** вы́раб з фарфо́ру

**porcelain**[2] [ˈpɔːsəlɪn] *adj.* фарфо́равы; **porcelain cups** фарфо́равыя ку́бкі

**porch** [pɔːtʃ] *n.* **1.** пад'е́зд; по́рцік **2.** *AmE* вера́нда; тэра́са; *They were sitting out on the porch.* Яны сядзелі на верандзе.

**pore**[1] [pɔː] *n.* **1.** *biol.* по́ра **2.** *geol.* по́ра, шчы́ліна

**pore**[2] [pɔː] *v.* **1. (over)** сканцэнтрава́на вывуча́ць, абду́мваць; *He pored over the books.* Ён сядзеў над кнігамі. **2. (at/on/upon)** абду́мваць, разважа́ць; **pore at a problem** абду́мваць прабле́му, разважа́ць над прабле́май

**pork** [pɔːk] *n.* **1.** свіні́на; **a pork chop** свіна́я адбіўна́я; **a pork pie** *BrE* піро́г са свіні́най **2.** грубія́н; свіння́

**porky** [ˈpɔːki] *adj. infml* тлу́сты, са́льны; то́ўсты

**porn** [pɔːn] *infml* = **pornography**

**porno** [ˈpɔːnəʊ] *adj. infml* = **pornographic**; **a porno movie** парнаграфі́чны фільм

**pornographic** [ˌpɔːnəˈgræfɪk] *adj.* парнаграфі́чны

**pornography** [pɔːˈnɒgrəfi] *n.* **1.** парнагра́фія; парнаграфі́чнае выда́нне **2.** сенсацы́йны натуралі́зм (*у апісанні боек, катаванняў і да т.п.*)

**porosity** [pɔːˈrɒsəti] *n.* по́рыстасць, наздрава́тасць, сі́товатасць

**porous** [ˈpɔːrəs] *adj.* по́рысты, наздрава́ты, сі́таваты

**porpoise** [ˈpɔːpəs] *n. zool*. марска́я свіння́

**porridge** [ˈpɒrɪdʒ] *n.* аўся́ная ка́ша

**port**[1] [pɔːt] *n.* порт, гáвань; **a port of registration/home port** порт прыпíскі; **port administration** партóвая адміністрáцыя; *The ferry has just left the port.* Паром толькі што пакінуў порт. ♦ **any port in a storm** у бýру любáя гáвань – вáртая; любы́ вы́хад з бяды́ – дóбры

**port**[2] [pɔːt] *n.* партвéйн (*віно*)

**port**[3] [pɔːt] *v. comput.* пераносíць (*праграму з камп'ютара на камп'ютар*)

**portable** [ˈpɔːtəbl] *adj.* перанóсны; партатыу́ны; **a portable lamp** перанóсная ля́мпа; **a portable television** перанóсны тэлевíзар

**portage** [ˈpɔːtɪdʒ] *n.* перавóзка, перапрáўка; перапрáва (*судна*) пóцягам

**portal**[1] [ˈpɔːtl] *n* **1.** *fml or lit.* партáл, галóўны ўвахóд; дзвéры, варóты **2.** *comput.* інтэрнэ́т-каталóг спасы́лак на íншыя сáйты **3.** *comput.* партáл, вэб-рэсýрс

**portal**[2] [ˈpɔːtl] *adj.* партáльны

**portend** [pɔːˈtend] *v.* прадракáць, прадкáзваць

**porter** [ˈpɔːtə] *n.* **1.** насíльшчык; грýзчык; *I hailed the porter and then a taxi.* Я паклікаў насільшчыка, а затым таксі. **2.** *BrE* швейцáр, брáмнік

**portfolio** [pɔːtˈfəʊliəʊ] *n.* (*pl.* **-os**) **1.** партфéль, пáпка **2.** партфóліа **3.** партфéль каштóўных папéр

**porthole** [ˈpɔːthəʊl] *n.* ілюмінáтар

**portion**[1] [ˈpɔːʃn] *n.* **1.** чáстка, дóля; **the larger portion of population** бóльшая чáстка насéльніцтва **2.** пóрцыя; *He ate a portion of soup.* Ён з'еў порцыю супу. **3.** *archaic* спáдчына; пасáг; *She received four hundred pounds for a portion.* Яна атрымала чатырыста фунтаў стэрлінгаў у пасаг.

**portion**[2] [ˈpɔːʃn] *v.* **1. (out)** дзялíць на чáсткі, на дóлі; **portion out land/property** падзялíць зямлю́/маёмасць **2.** *archaic* надзяля́ць чáсткай маёмасці, грóшай, зямлí і да т.п.; **the land portioned to the eldest son** зямля́, якáя дастáлася старэ́йшаму сы́ну **3.** *archaic* давáць пасáг; **portion a daughter** дáць пасáг дачцэ́

**portrait**[1] [ˈpɔːtreɪt, ˈpɔːtrət] *n.* **1.** партрэ́т; **a portrait of the actor** партрэ́т акцёра; *She's been commissioned to paint Tom's portrait.* Ёй заказалі намаляваць партрэт Тома. **2.** апíсáнне, характары́стыка

**portrait**[2] [ˈpɔːtreɪt, ˈpɔːtrət] *adj. comput.* партрэ́тны; вертыкáльны

**portrait display** [ˈpɔːtreɪtdɪˌspleɪ] *n. comput.* партрэ́тны дыспле́й; вертыкáльны дыспле́й

**portray** [pɔːˈtreɪ] *v.* **1**. апíсваць, адлюстрóўваць; стварáць вóбраз **2.** стварáць партрэ́т **3.** ігрáць, прадстаўля́ць (*каго-н.*) на сцэ́не, у кінó

**Portuguese**[1] [ˌpɔːtʃuˈgiːz] *n.* **1.** партугáлец; партугáлка; **the Portuguese** партугáльцы **2.** партугáльская мóва; *Do you speak Portuguese?* Ты размаўляеш па-партугальску?

**Portuguese**[2] [ˌpɔːtʃuˈgiːz] *adj.* партугáльскі; **Portuguese wine** партугáльскае вінó

**pose**[1] [pəʊz] *n.* **1.** пóза; пазíраванне; *The Queen adopted a dignified pose.* Каралева прыняла велічную позу. **2.** пóза, прытвóрства; *He is always speaking about his deep interest in philosophy – it's just a pose.* Ён заўсёды гаворыць аб сваёй глыбокай зацікаўленасці філасофіяй – гэта толькі поза.

**pose**[2] [pəʊz] *v.* **1.** стáвіць (*пытанне, праблему*); *Rising unemployment is posing serious problems for the administration.* Павелічэнне беспрацоўя ставіць сур'ёзныя праблемы перад урадам. **2.** пазíраваць **3.** уяўля́ць сабóй; з'яўля́цца; **pose a threat/danger/risk** уяўля́ць сабóю пагрóзу/небяспéку/ры́зыку

**poseur** [pəʊˈzɜː] *n. infml* пазёр

**posh** [pɒʃ] *adj. infml* шыкóўны; раскóшны; багáты; *This is the poshest shop in the town.* Гэта самы раскошны магазін у горадзе; *They had a posh time.* Яны шыкоўна правялі час.

**position**[1] [pəˈzɪʃn] *n.* **1.** мéсца (*знаходжання*); размяшчэ́нне, распалажэ́нне; пазíцыя; **in/out of position** на сваíм/не на сваíм мéсцы **2.** станóвішча, стан; *I'm not in the position to do it.* У мяне няма магчымасці зрабіць гэта. **3.** *fml* мéсца, пасáда **4. (on)** пазíцыя, пункт пóгляду, аднóсіны **5.** пастáва; пóза **6.** *sport* пастáва, пазíцыя

**position**[2] [pəˈzɪʃn] *v.* стáвіць, расстаўля́ць, размяшчáць

**positive** [ˈpɒzətɪv] *adj.* **1.** пэ́ўны, безумóўны, бясспрэ́чны; **a positive refusal** цвёрдая адмóва; **a positive proof** бясспрэ́чны дóказ **2.** упэ́ўнены; *Are you sure? – Yes, I'm positive.* Вы ўпэўнены? – Так, абсалютна. **3.** станóўчы, канструкты́ўны; **a positive reaction** станóўчая рэáкцыя; **positive thinking** канструкты́ўная дýмка **4.** *math., phys.* дадáтны

**positively** [ˈpɒzətɪvli] *adv.* **1.** безумóўна, несумнéнна; я́сна; даклáдна; бясспрэ́чна **2.** рашýча, катэгары́чна; *He positively refused to leave.* Ён рашуча адмовіўся паехаць. **3.** абсалю́тна, зусíм, цáлкам; *The statement is positively true.* Заява абсалютна правільная.

**positive vetting** [ˌpɒzətɪvˈvetɪŋ] *n. BrE* правéрка добранадзéйнасці

**positivism** [ˈpɒzətɪvɪzəm] *n. philos.* пазітывíзм; неапазітывíзм

**positron** [ˈpɒzɪtrɒn] *n. phys*. пазітрóн

**possess** [pəˈzes] *v.* **1.** уладáць, валóдаць; **possess oneself** валóдаць сабóю; *He was found guilty of possessing heroin.* Яго абвінавацілі ў захоўванні гераіну. **2.** ахóпліваць, авалóдваць (*пра пачуцці, настрой і да т.п.*); *What possessed you to do it?* Што прымусіла цябе зрабіць гэта?

**possessed** [pəˈzest] *adj.* **1. (by, with)** апанавáны (*жаданнем, ідэямі і да т.п.*); *Tom was possessed with rage.* Том быў разгневаны. **2.** якí валóдае сабóй, захóўвае вы́трымку, спакóй і да т.п. ♦ **be possessed of smth.** валóдаць чым-н.; *She was possessed of exceptional intelligence*. У яе быў выключны розум.

**possession** [pəˈzeʃn] *n.* **1.** *fml* валóданне; **be in possession of smth.** быць уладáльнікам чагó-н.; **take/get possession of smth.** набы́ць што-н. **2.** *pl.* **possessions** маёмасць, улáснасць ♦ **possession is nine tenths of the law** маёмасць дыктýе закóны; уладáльнік на дзéвяць дзясятых мáе рáцыю

**possessive**[1] [pəˈzesɪv] *n. ling.* прыналéжны склон

**possessive**[2] [pəˈzesɪv] *adj. ling.* прыналéжны; **the possessive case** прыналéжны склон; **possessive pronouns** прыналéжныя займéннікі

**possibility** [ˌpɒsəˈbɪləti] *n.* магчы́масць, мажлíвасць; **infinite possibilities** неабмежавáныя магчы́масці; **beyond the bounds of possibility** па-за мéжамі магчы́масці; **exhaust all the possibilities** вы́чарпаць усé магчы́масці; **explore/consider/investigate all the possibilities** вывучáць/разглядáць/даслéдаваць усе магчы́масці; *The plan has great possibilities*. План адкрывае вялікія магчымасці; *There's no possibility of recovery*. Няма надзеі на папраўку.

**possible** [ˈpɒsəbl] *adj.* магчы́мы, мажлíвы; **if at all possible** калí наóгул магчы́ма; **as far as possible** накóлькі магчы́ма; **whenever possible** калí ёсць магчы́масць, калí магчы́ма ♦ **as quickly/soon as possible** як магá хутчэ́й

**possibly** [ˈpɒsəbli] *adv.* магчы́ма, мажлíва, верагóдна

**post**[1] [pəʊst] *n. BrE* пóшта; **by post** па пóшце

**post**[2] [pəʊst] *v. BrE* пасылáць пóштай ♦ **keep smb. posted (about/on smth.)** трымáць каго́-н. у кýрсе спраў

**post**[3] [pəʊst] *n.* слуп (*драўляны або металічны*)

**post**[4] [pəʊst] *n.* **1.** мéсца, пасáда; **apply for a post** падавáць заяву на пасáду; **resign (from) a post** звальняцца з пасáды **2.** *mil.* пост

**postage** [ˈpəʊstɪdʒ] *n.* паштóвыя выдáткі; **postage and packing** *BrE* упакóўка і перасы́лка; **postage and handling** *AmE* перасы́лка і сарцірóўка

**postage stamp** [ˈpəʊstɪdʒˌstæmp] *n. fml* паштóвая мáрка

**postal** [ˈpəʊstl] *adj.* паштóвы; **a postal address** паштóвы áдрас; **postal workers** паштóвыя рабóтнікі; **an increase in postal charges** павелічэ́нне паштóвых выдáткаў ♦ **go postal** *infml* раззлавáцца

**postal ballot** [ˈpəʊstlˌbælət] *n. BrE* галасавáнне па пóшце

**postal service** [ˈpəʊstlˌsɜːvɪs] *n.* паштóвая слýжба

**postal vote** [ˈpəʊstlˌvəʊt] *n. BrE* гóлас па пóшце (*на выбарах*)

**postbag** [ˈpəʊstbæg] *n. BrE* сýмка паштальёна

**postbox** [ˈpəʊstbɒks] *n. BrE* паштóвая скры́нка

**postcard** [ˈpəʊstkɑːd] *n.* паштóўка; **a picture postcard** мастáцкая паштóўка; *Don't forget to send us a postcard!* Не забудзь прыслаць нам паштоўку!

**postcode** [ˈpəʊstkəʊd] *n. BrE* паштóвы код

**poster** [ˈpəʊstə] *n.* афíша; пóстар; плакáт; *The bedroom wall was covered in posters.* Сцяна ў спальні была абвешана постарамі.

**poste restante** [ˌpəʊstˈrestɑːnt] *n. BrE* аддзялéнне для карэспандэ́нцыі «да запатрабавáння»

**postgrad** [ˈpəʊstgræd] *infml* = **postgraduate**

**postgraduate** [ˌpəʊstˈgrædʒuət] *n.* аспірáнт; **a postgraduate course** аспірантýра

**posthumous** [ˈpɒstjʊməs] *adj.* пасмярóтны; *The medal was awarded posthumous.* Медаль быў прысуджаны пасмяротна.

**postindustrial** [ˌpəʊstɪnˈdʌstriəl] *adj.* постіндустрыя́льны

**postman** [ˈpəʊstmən] *n.* (*pl.* **-men**) паштальён

**postmark** [ˈpəʊstmɑːk] *n.* паштóвы штэ́мпель

**postmaster** [ˈpəʊstˌmɑːstə] *n.* начáльнік паштóвага аддзялéння

**postmistress** [ˈpəʊstmɪstrəs] *n.* начáльнік паштóвага аддзялéння (*жанчына*)

**postmodern** [ˌpəʊstˈmɒdn] *adj*. постмадэ́рнавы, постмадэрнíсцкі

**postmodernism** [ˌpəʊstˈmɒdənɪzəm] *n.* постмадэрнíзм

**post-mortem** [ˌpəʊstˈmɔːtəm] *n. med.* (*таксама* **post-mortem examination**) анатамíраванне трýпа, аўтапсíя; **do/conduct/carry out a post-mortem** рабíць анатамíраванне трýпа; *The post-mortem revealed that Mills had been strangled.* Анатаміраванне трупа паказала, што Мілз была задушана.

**postnatal** [ˌpəʊstˈneɪtl] *adj. BrE, med.* пасляро́давы

**post office** [ˈpəʊstˌɒfɪs] *n.* по́шта, пашто́вае аддзяле́нне; **a general post office** гало́ўны пашта́мт

**post-operative** [ˌpəʊstˈɒpərətɪv] *adj. med.* пасляаперацы́йны

**post partum** [ˌpəʊstˈpɑːtəm] *adj. AmE, med.* пасляро́давы; **post partum fever** пасляро́давая гара́чка

**postpone** [pəˈspəʊn] *v.* **(to/until)** адкладваць, адтэрміно́ўваць; *The match had to be postponed.* Матч прыйшлося адкласці.

**postponement** [pəˈspəʊnmənt] *n.* адклада́нне, адкла́дванне, адтэрміно́ўка

**postposition** [ˌpəʊstpəˈzɪʃn] *n. ling.* постпазі́цыя

**postscript** [ˈpəʊstskrɪpt] *n.* **(to)** пастскры́птум

**post-traumatic** [ˌpəʊs(t)trɔːˈmætɪk] *adj.* **: post-traumatic stress disorder** посттраўматы́чны стрэс

**postulate**[1] [ˈpɒstjʊlət] *n. fml* пастула́т

**postulate**[2] [ˈpɒstjuleɪt] *v. fml* тэарэты́чна дапуска́ць; пастулі́раваць

**posture**[1] [ˈpɒstʃə] *n.* **1.** паста́ва, по́за (*цела*); **a comfortable posture** зру́чная паста́ва; **upright/sitting/supine posture** прама́я/сядзя́чая/ляжа́чая паста́ва; *Scoliosis can be the result of bad posture.* Няправільная пастава можа прывесці да скаліёзу. **2.** адно́сіны; пазі́цыя; **the American posture toward terrorism** адно́сіны Аме́рыкі да тэрары́зму

**posture**[2] [ˈpɒstʃə] *v. fml* рысава́цца; выстаўля́цца; пазі́раваць

**post-war** [ˌpəʊstˈwɔː] *adj.* пасляваенны; **economic conditions in post-war Britain** эканамі́чныя ўмо́вы ў пасляваеннай Брыта́ніі; **the post-war period** пасляваенны перы́яд

**postwoman** [ˈpəʊstwʊmən] *n.* (*pl.* **-women**) паштальён (*жанчына*)

**pot**[1] [pɒt] *n.* **1.** гаршчо́к; кацяло́к; (высо́кая) кастру́ля; бляша́нка; сло́ік; **pots and pans** кухо́нны по́суд; **flower pot** гаршчо́к для кве́так, вазо́н; **a pot of jam** сло́ік варэ́ння; **a pot of paint** бляша́нка фа́рбы **2.** начны́ гаршчо́к **3.** лу́за (*у більярдзе*) ♦ **go to pot** *infml* разары́цца; загі́нуць; ≅ вы́лецець у трубу́; **pot luck** шанс; магчы́масць, мажлі́васць; **pots of money** *BrE, infml* шмат/ве́льмі мно́га грошай; *They've got pots of money.* У іх куча грошай; **the pot calling the kettle black** *infml* ≅ або́е рабо́е; адзі́н друго́га ва́рты; аднаго́ по́ля я́гада; два бо́ты па́ра

**pot**[2] [pɒt] *v.* **1.** саджа́ць або́ пераса́джваць раслі́ны ў гаршчо́к **2.** заганя́ць у лу́зу шар (*у більярдзе*) **3.** страля́ць па жывёлах або́ пту́шках

**potable** [ˈpəʊtəbl] *adj. fml* прыго́дны для піцця́, пітны́; **potable water** пітна́я вада́

**potash** [ˈpɒtæʃ] *n. chem.* пата́ш, вугля, кі́слы ка́лій

**potassium** [pəˈtæsiəm] *n. chem.* ка́лій

**potato** [pəˈteɪtəʊ] *n.* (*pl.* **-oes**) бу́льба; бу́льбіна; **new potatoes** малада́я бу́льба; **boiled/fried potatoes** ва́раная/сма́жаная бу́льба; **mashed potatoes** бульбяно́е пюрэ́

**potato crisps** [pəˌteɪtəʊˈkrɪsps] *n. BrE* чы́псы

**pot-bellied** [ˌpɒtˈbelɪd] *adj.* пуза́ты, таўстапу́зы

**potboiler** [ˈpɒtbɔɪlə] *n. infml* **1.** халту́ра **2.** халту́ршчык

**potent** [ˈpəʊtnt] *adj.* мо́цны, магу́тны; эфекты́ўны

**potential**[1] [pəˈtenʃl] *n.* **1.** патэнцыя́л; **nuclear potential** я́дзерны патэнцыя́л **2.** *electr.* напру́жанне, патэнцыя́л; **potential difference** ро́знасць патэнцыя́лаў, напру́жанне

**potential**[2] [pəˈtenʃl] *adj.* патэнцыя́льны; **a potential threat to national security** патэнцыя́льная пагро́за нацыяна́льнай бяспе́цы; **potential customers** патэнцыя́льныя пакупнікі́ (*кліенты*)

**potential energy** [pəˌtenʃlˈenədʒi] *n. phys.* патэнцыя́льная эне́ргія

**potentially** [pəˈtenʃəli] *adv.* патэнцыя́льна, патэнцы́йна

**pothole** [ˈpɒthəʊl] *n.* калдо́біна, выбо́іна

**potted** [ˈpɒtɪd] *adj.* **1.** гаршко́вы, пакаёвы (*пра расліны*); **a potted plant** гаршко́вая, пакаёвая расліна **2.** *BrE* кансервава́ны; **potted meat** мясны́ паштэ́т

**potter**[1] [ˈpɒtə] *n.* ганча́р

**potter**[2] [ˈpɒtə] *v. BrE* бязмэ́тна сно́ўдацца, слаunionца, бадзя́цца; **potter away one's time** ма́рна тра́ціць час

**pottery** [ˈpɒtəri] *n.* **1.** кера́міка, ганча́рныя вы́рабы **2.** ганча́рная спра́ва; **pottery industry** ганча́рная вытво́рчасць **3.** ганча́рня, ганча́рная майстэ́рня

**potty**[1] [ˈpɒti] *n. infml* гаршчо́чак (*дзіцячы*)

**potty**[2] [ˈpɒti] *adj. infml* **: be potty about smth./smb.** страшэ́нна захапі́цца чым-н./кім-н.

**pouch** [paʊtʃ] *n.* **1.** су́мка, мяшэ́чак, то́рбачка; **a tobacco pouch** кісе́т, капшу́к **2.** *zool.* су́мка (*у сумчатых жывёл*)

**poulterer** [ˈpəʊltərə] *n.* гандля́р сво́йскай пту́шкай, дзічы́най і да т.п.

**poultry** [ˈpəʊltri] *n.* **1.** *pl.* сво́йская, ха́тняя пту́шка; **poultry breeding** птушкагадо́ўля **2.** мя́са сво́йскай пту́шкі

**pounce** [paʊns] *v.* **(on/upon) 1.** налята́ць, накі́двацца, атакава́ць **2.** прыдзіра́цца, чапля́цца да ко́жнай дро́бязі; з ра́дасцю хапа́цца за памы́лку, про́мах і да т.п.

**pound**[1] [paʊnd] *n.* **1.** фунт (*мера вагі = 453,6 г*); *Tom weighs about 130 pounds*. Том важыць амаль 130 фунтаў; **a pound of butter** фунт мáсла **2.** (*таксама* **pound sterling**) фунт (стэ́рлінгаў) (*грашовая адзінка*) ♦ **one's pound of flesh** закóннае, алé жóрсткае патрабавáнне (*платы, звароту чаго-н.*)

**pound**[2] [paʊnd] *v.* **1. (at/against/on)** мóцна біць, грукатáць, калацíць (*па чым-н.*) **2.** мóцна біцца, калацíцца (*пра сэрца*) **3. (out)** мóцна іграць на музы́чным інструмéнце

**pound cake** [ˈpaʊndkeɪk] *n. AmE* кекс абó торт (*для прыгатавання якога патрабуецца па фунту кожнага з яго інгрэдыентаў*)

**pour** [pɔː] *v.* **1.** ліць, налівáць, улівáць; улівáцца; *Shall I pour you another cup of coffee?* Наліць вам яшчэ кубачак кавы? **2.** лíцца; *It's pouring with rain.* Дождж лье як з вядра. **3. (out)** выкáзваць, раскрывáць (*пачуцці*) **4. (into)** даць шмат грóшай (*на што-н.*); *The company pours money into charity twice a year.* Кампанія дае грошы на дабрачыннасць два разы на год. ♦ **pour oil on troubled water(s)** уздзéйнічаць заспакая́льна; уціхамíрваць; **pour out one's heart/soul** раскрывáць душý

**pouring**[1] [ˈpɔːrɪŋ] *n.* **1.** налівáнне; разлівáнне **2.** *tech.* разлíўка, разліццё; залíўка

**pouring**[2] [ˈpɔːrɪŋ] *adj.* **1.** праліўны́; **pouring rain** праліўны́ дождж, лíвень **2.** разлівáльны; разлíвачны

**pout** [paʊt] *v.* **1.** надзімáць гýбы, кры́ўдзіцца **2.** гавары́ць (*што-н.*) з надзьмýтым вы́глядам

**poverty** [ˈpɒvəti] *n.* бéднасць, галéча; *Thousands of children live in dire poverty.* Тысячы дзяцей жывуць у страшнай галечы; **abject/extreme poverty** крáйняя/страшэ́нная галéча; **alleviate/relieve poverty** памéншыць узрóвень галéчы

**poverty line** [ˈpɒvətilaɪn] *n.* **the poverty line** (*таксама* **the poverty level**) нíжняя мяжá пражы́тачнага мíнімуму; **at/below the poverty line** на мяжы́/ніжэ́й мяжы́ галéчы

**poverty-stricken** [ˈpɒvətiˌstrɪkən] *adj.* **1.** вéльмі бéдны **2.** заняпáлы, убóгі; **poverty homes** убóгае жыллё

**POW** [ˌpiːəʊˈdʌbljuː] (*скар. ад* **Prisoner of War**) ваеннапалóнны; *Thousands of POWs died in the camps.* Тысячы ваеннапалонных памерлі ў канцэнтрацыйных лагерах.

**pow** [paʊ] *interj.* бух!; пах!; пых!; пух!

**powder**[1] [ˈpaʊdə] *n.* пýдра; **gun powder** пóрах; **washing powder** прáльны парашóк ♦ **keep your powder dry** *dated* трымáй пóрах сухíм; **take a powder** *AmE, infml* змы́цца, уцячы́, знíкнуць

**powder**[2] [ˈpaʊdə] *v.* **1.** пýдрыць; **powder oneself** пýдрыцца **2.** ператварáць у парашóк

**powdered** [ˈpaʊdəd] *adj.* **1.** напýдраны; **powdered hair** напýдраныя валасы́ **2.** парашкóвы; **powdered milk** парашкóвае/сухóе малакó; **powdered sugar** цукрóвая пýдра

**powder puff** [ˈpaʊdəˌpʌf] *n.* пухóўка

**powder room** [ˈpaʊdəˌruːm] *n.* дáмскі пакóй

**powdery** [ˈpaʊdəri] *adj.* **1.** парашкападóбны **2.** рассы́пісты; мя́ккі; ры́хлы **3.** прыцярýшаны; прыпýдраны

**power**[1] [ˈpaʊə] *n.* **1.** здóльнасць, сíлы; **mental powers** разумóвыя здóльнасці; *I'll do everything in my power.* Я зраблю ўсё, што мне пад сілу. **2.** сíла, моц; энéргія; сілкавáнне; магýтнасць; **nuclear power** áтамная энéргія; **horse power** кóнская сíла **3.** улáда; паўнамóцтвы; **be in power** мець улáду; **seize/lose power** захапíць/стрáціць улáду; **take/come to power** прыйсцí да ўлáды; **a party in power** кірýючая пáртыя; **emergency powers** надзвычáйныя паўнамóцтвы **4.** дзяржáва; **the great powers** вялíкія дзяржáвы; **an allied/enemy power** саю́зніцкая/варóжая дзяржáва ♦ **more power to one's elbow** *BrE, infml* жадáць пóспеху/удáчы камý-н.; **the powers that be** *iron*. улáдныя лю́дзі; **the (real) power behind the throne** «улáда па-за трóнам»; нябáчная ўлáда

**power**[2] [ˈpaʊə] *v.* **1.** прывóдзіць у дзéянне абó рух **2.** сілкавáць, забяспéчваць энéргіяй

**power up** [ˌpaʊərˈʌp] *phr.v.* уключы́ць сілкавáнне

**power base** [ˈpaʊəˌbeɪz] *n.* палíты́чная падтры́мка, апóра ў час правядзéння кампáніі

**power boat** [ˈpaʊəˌbəʊt] *n.* матóрны кáтар, матóрная шлю́пка

**power cut** [ˈpaʊəˌkʌt] *n. BrE* адключэ́нне электры́чнасці

**powerful** [ˈpaʊəfəl] *adj.* магýтны (*у розных знач.*); **a powerful consortium of European companies** магýтны кансóрцыум еўрапéйскіх кампáній; **powerful drug** мóцны прэпарáт; **a powerful speech** я́ркая, пераканáўчая прамóва

**powerhouse** [ˈpaʊəˌhaʊs] *n.* **1.** мóцная грýпа, групóўка **2.** мóцны, энергíчны чалавéк, завадáтар; завадáтарка

**powerless** [ˈpaʊələs] *adj.* бяссíльны; **powerless to do smth.** нязды́льны рабíць што-н.; *The Germans were powerless against the might of the Soviet Army.* Немцы былі бяссільныя супраць магутнасці Савецкай Арміі.

**power plant** [ˈpaʊəˌplɑːnt] *n.* электрастáнцыя

**power point** [ˈpaʊəˌpɔɪnt] *n.* штэ́псельная разе́тка
**power station** [ˈpaʊəˌsteɪʃn] *n. BrE* электраста́нцыя
**power user** [ˈpaʊəˌjuːzə] *comput.* кваліфікава́ны карыста́льнік
**pp.** (*пісьмовае скар. ад* **pages**) staro´нкі; *See pp. 15–17.* Глядзіце на с. 15–17.
**PR** [ˌpiːˈɑː] *n.* (*скар. ад* **public relations)** су́вязі з грама́дскасцю
**practicable** [ˈpræktɪkəbl] *adj. fml* **1.** які́ магчы́ма ажыццяві́ць; здзяйсня́льны **2.** кары́сны
**practical** [ˈpræktɪkl] *adj.* **1.** практы́чны (*у розных знач.*); **practical experience** практы́чны во́пыт, пра́ктыка; **a practical woman** практы́чная/дзелава́я жанчы́на; *How much practical experience of working with computers do you have?* Які ў вас практычны вопыт у рабоце з камп'ютарамі? **2.** практы́чны, зру́чны; кары́сны; мэтазго́дны; **a practical table** зру́чны стол **3.** ісго́тны, рэа́льны; **practical schemes** рэа́льныя пла́ны **4.** факты́чны; цяпе́-рашні ♦ **for all practical purposes** практы́чна, факты́чна
**practicality** [ˌpræktɪˈkæləti] *n.* практы́чнасць
**practical joke** [ˌpræktɪklˈdʒəʊk] *n.* ро́зыгрыш
**practically** [ˈpræktɪkəli] *adv.* **1.** практы́чна **2.** факты́чна, на са́май спра́ве; **practically speaking** па су́тнасці (гаво́рачы) **3.** ама́ль; *She's practically always late.* Яна амаль заўсёды спазняецца.
**practice¹** [ˈpræktɪs] *n.* **1.** пра́ктыка (*у розных знач.*); **put into practice** ажыццяўля́ць, здзяйсня́ць **2.** трэніро́ўка; **basketball practice** баскетбо́льная трэніро́ўка **3.** прывы́чка; звы́чай; **it is standard/common practice** гэ́та стандáртная/звыча́йная працэду́ра ♦ **be/get out of practice** не мець пра́ктыкі (*у чым-н.*); **in practice** на пра́ктыцы
**practice²** [ˈpræktɪs] *AmE* = **practise**
**practise** [ˈpræktɪs] *v.* **1.** практыкава́цца, трэніра-ва́цца **2.** займа́цца пра́ктыкай (*медыцынскай, юрыдычнай*) ♦ **practise what you preach** ≅ трэ́ба, каб сло́вы не разыхо́дзіліся са спра́вай
**practitioner** [prækˈtɪʃənə] *n.* практыку́ючы ўра́ч або́ юры́ст; **a general practitioner** ура́ч агу́льнай пра́ктыкі, тэрапе́ўт
**praesidium** [prɪˈsɪdɪəm] = **presidium**
**pragmatic** [prægˈmætɪk] *adj.* прагматы́чны; **a pragmatic approach to the politics** прагматы́чны падыхо́д да палі́тыкі
**pragmatics** [prægˈmætɪks] *n. ling.* прагма́тыка (*раздзел семіётыкі*)
**pragmatism** [ˈprægmətɪzəm] *n. fml* прагма́тыка
**prairie** [ˈpreəri] *n.* прэ́рыя
**praise¹** [preɪz] *n.* (па)хвала́; *She is always singing him praises.* Яна вечна спявае яму дыфірамбы.
**praise²** [preɪz] *v.* хвалі́ць; *The play was praised by the critics when it was first shown.* Крытыкі хвалілі п'есу пасля прэм'еры. ♦ **praise smb./smth. to the skies** ве́льмі расхва́льваць; узно́сіць каго́-н./што-н. да нябёсаў
**praiseworthy** [ˈpreɪzˌwɜːði] *adj. fml* пахва́льны, які́ заслуго́ўвае пахвалы́
**pram** [præm] *n. BrE* дзіця́чая каля́ска
**prance¹** [prɑːns] *n.* скачо́к; курбе́т
**prance²** [prɑːns] *v.* **1.** гарэ́знічаць, гарэ́заваць; скака́ць **2.** гарцава́ць
**prang** [præŋ] *n.* ава́рыя, сутыкне́нне
**prank** [præŋk] *n.* жарт; вы́хадка, вы́брык, сваво́льства
**prankster** [ˈpræŋkstə] *n.* жартаўні́к; сваво́льнік; гарэ́за
**prat** [præt] *n. BrE, slang* ду́рань
**prawn** [prɔːn] *n.* крэве́тка; **a prawn sandwich** бутэрбро́д з крэве́ткамі
**praxis** [ˈpræksɪs] *n.* (*pl.* **-xes**) *philos.* пра́ктыка (*у адрозненне ад тэорыі*)
**pray** [preɪ] *v.* малі́цца; прасі́ць; **pray (to God) for smth./smb.** малі́цца аб чым-н./кім-н.; *Let us pray for peace.* Давайце памолімся за мір; *They went to the mosque to pray.* Яны пайшлі памаліцца ў мячэць.
**prayer** [preə] *n.* **1.** малі́тва; *Ann's one prayer is that the children won't suffer.* Аніна малітва – аб тым, каб дзеці не пакутавалі. **2.** *pl.* **prayers** богаслужэ́нне, набажэ́нства ♦ **not have a prayer** не мець ніякіх ша́нсаў
**prayer book** [ˈpreəbʊk] *n.* малі́твеннік, маліто́ўнік
**preach** [priːtʃ] *v.* **1.** прапаве́даваць (*таксама перан.*); *Christ began to preach to large crowds.* Хрыстос пачаў прапаведаваць вялікім натоўпам людзей. **2.** чыта́ць про́паведзь **3.** павуча́ць, чыта́ць мара́ль ♦ **preach to the converted** ≅ ламá́цца ў адчы́неныя дзве́ры
**preacher** [ˈpriːtʃə] *n.* **1.** прапаве́днік **2.** святá́р; па́стар
**preamble** [priˈæmbl, ˈpriːæmbl] *n. fml* прэа́мбула; прадмо́ва, усту́п; пача́так
**prearrange** [ˌpriːəˈreɪndʒ] *v.* падрыхто́ўваць за́гадзя, планава́ць
**prearranged** [ˌpriːəˈreɪndʒd] *adj.* запланава́ны, падрыхтава́ны за́гадзя; *At a prearranged signal everyone stood up.* Па ўмоўленым сігнале ўсе ўсталі.
**precarious** [prɪˈkeəriəs] *adj.* **1.** небяспе́чны, рызыко́ўны **2.** ненадзе́йны, няпэ́ўны; **a precarious peace** ненадзе́йны мір

**precaution** [prɪˈkɔːʃn] *n.* (*звыч. pl.*) засцяро́га; **take precautions against smth.** прыма́ць ме́ры засцяро́гі су́праць чаго́-н.

**precede** [prɪˈsiːd] *v.* **1.** папярэ́дзіць **2.** быць/знахо́дзіцца ўпе́радзе **3. : (with)** *She preceded the discussion with a few words.* Яна сказала некалькі слоў перад абмеркаваннем.

**precedence** [ˈpresɪdəns] *n.* прыярытэ́т, першачарго́васць; першынство́, старшынство́; **in order of precedence** па чарзе́; **have/take precedence over** быць больш ва́жным/зна́чным; займа́ць больш высо́кае стано́вішча

**precedent** [ˈpresɪdənt] *n.* прэцэдэ́нт; **without precedent** які́ не ма́е прэцэдэ́нту

**precinct** [ˈpriːsɪŋkt] *n.* **1.** *BrE* раён (*частка горада, якая выкарыстоўваецца ў пэўных мэтах*); **a shopping precinct** гандлёвы цэнтр, паса́ж; **a pedestrian precinct** ву́ліцы (зо́на) то́лькі для пешахо́даў **2.** (*звыч. pl.*) тэрыто́рыя вако́л будынка (*часта абгароджаная*); **the cathedral/college precincts** тэрыто́рыя царквы́/кале́джа

**precious** [ˈpreʃəs] *adj.* **1.** кашто́ўны; **precious stones** кашто́ўныя камяні, самацве́ты; **precious metals** высакаро́дныя мета́лы **2.** дарагі́, любі́мы; **precious memories** дарагі́я ўспамі́ны; **my precious darling** мой лю́бы, дарагі́, мі́лы; *This doll is very precious to me because it was my mother's.* Гэтая лялька вельмі дарагая мне, таму што яна належала маёй маці.

**precipice** [ˈpresəpɪs] *n.* абры́ў; про́рва, бе́здань; **be on the edge of a precipice** стая́ць на краі́ бе́здані (*перан.*)

**precipitate[1]** [prɪˈsɪpɪteɪt] *n. chem.* аса́дак

**precipitate[2]** [prɪˈsɪpɪtət] *adj. fml* **1.** імклі́вы, імпэ́тны; **precipitate retreat** імклі́выя ўцёкі, адступле́нне **2.** раптоўны, нечака́ны; ху́ткі; **a precipitate drop in the temperature** рэ́зкае паніжэ́нне тэмперату́ры **3.** неабду́маны, неаба́члівы, безразва́жлівы

**precipitate[3]** [prɪˈsɪpɪteɪt] *v. fml* **1.** скіда́ць, звярга́ць **2.** паскара́ць, падганя́ць, прыспе́шваць

**precipitation** [prɪˌsɪpɪˈteɪʃn] *n.* **1.** *meteorol.* апа́дкі (*пра дождж, снег і да т.п.*); выпада́нне апа́дкаў; **annual precipitation** гадава́я ко́лькасць апа́дкаў **2.** *chem.* асяда́нне

**precipitous** [prɪˈsɪpɪtəs] *adj. fml* **1.** круты́, абры́вісты **2.** паспе́шны; **a precipitous decision** паспе́шнае рашэ́нне

**precis[1]** [ˈpreɪsiː] *n.* (*pl.* **precis**) сці́слы перака́з; канспе́кт, рэфера́т; **a concise and accurate precis** сці́слы і дакла́дны канспе́кт

**precis[2]** [ˈpreɪsiːz] *pl.* → **precis[1]**

**precise** [prɪˈsaɪs] *adj.* **1.** дакла́дны; **precise calculations** дакла́дныя разлі́кі; **at that precise moment** у гэ́ты са́мы мо́мант **2.** акура́тны; пунктуа́льны ♦ **to be (more) precise** каб быць больш дакла́дным

**precisely** [prɪˈsaɪsli] *adv.* **1.** акура́тна **2.** дакла́дна; **at 10 o'clock precisely** роўна ў 10 гадзін **3.** зусі́м пра́вільна, і́менна/менаві́та так, сапраўды́ (*у адказе*); *So you advise me to wait a little? – Precisely.* Дык вы параілі б пачакаць? – Іменна так.

**precision** [prɪˈsɪʒn] *n.* дакла́днасць; **precision instruments** дакла́дныя інструме́нты

**preclude** [prɪˈkluːd] *v.* прадухіля́ць; перашкаджа́ць, заміна́ць

**precocious** [prɪˈkəʊʃəs] *adj.* **1.** які́ ра́на разві́ўся; **a precocious child** не па гада́х развіто́е дзіця́; **precocious talent** та́лент, які́ ра́на разві́ўся **2.** заўча́сны; **precocious maturity** заўча́сная ста́ласць

**precognition** [ˌpriːkɒgˈnɪʃn] *n. fml* прадба́чанне

**pre-Columbian** [ˌpriːkəˈlʌmbiən] *adj.* які́ папярэ́днічае адкрыццю́ Аме́рыкі Калу́мбам, дакалу́мбаў

**preconceived** [ˌpriːkənˈsiːvd] *adj.* прадузя́ты; які́ за́гадзя сфарміра́ваўся (*пра меркаванне, погляд, перакананне і да т.п.*); **a preconceived opinion** прадузя́тая ду́мка

**preconception** [ˌpriːkənˈsepʃn] *n.* прадузя́тая ду́мка, прадузя́тасць

**precondition** [ˌpriːkənˈdɪʃn] *n.* передумо́ва

**preconsious[1]** [ˌprɪˈkɒnʃəs] *n. psychol.* падсвядо́масць

**preconsious[2]** [ˌprɪˈkɒnʃəs] *adj. psychol.* падсвядо́мы

**precursor** [ˌpriːˈkɜːsə] *n.* папярэ́днік; папярэ́дніца; прадве́снік; прадве́сніца

**predate** [ˌpriːˈdeɪt] *v.* адбы́цца да яко́га-н. чысла́; **the house that predates World War II** дом, які пабудава́ны да Друго́й сусве́тнай вайны́

**predator** [ˈpredətə] *n. zool.* драпе́жнік

**predatory** [ˈpredətri] *adj.* **1.** *zool.* драпе́жны; **predatory birds** драпе́жныя пту́шкі **2.** грабе́жніцкі, рабаўні́цкі; драпе́жны; **a predatory war** грабе́жніцкая вайна́

**predecease** [ˌpriːdɪˈsiːs] *v. law* паме́рці ране́й (*за каго-н.*); *John's wife predeceased him.* Жонка Джона памерла раней за яго.

**predecessor** [ˈpriːdɪsesə] *n.* **1.** папярэ́днік; *The President inherited his economic problems from his predecessor.* Прэзідэнт атрымаў у спадчыну эканамічныя праблемы свайго папярэдніка. **2.** прадме́т, які́ заме́нены і́ншым; *His new car is much faster than its predecessor.* Яго

новая машына значна шпарчэйшая за папярэднюю.

**predestination** [ˌpriːdestɪˈneɪʃn] *n.* прадвызнача́нне; лёс; до́ля

**predetermine** [ˌpriːdɪˈtɜːmɪn] *v. fml* прадвызнача́ць, прадраша́ць; **predetermine the cost of the house** за́гадзя вы́значыць кошт до́ма

**predicate**[1] [ˈpredɪkət] *n.* **1.** *ling.* вы́ка́знік **2.** *log.* прэдыка́т

**predicate**[2] [ˈpredɪkeɪt] *v. fml* **(on/upon)** сцвярджа́ць; заяўля́ць; рабі́ць зая́ву

**predication** [ˌpredɪˈkeɪʃn] *n.* **1.** *ling.*, *log.* прэдыка́цыя **2.** сцвярджэ́нне

**predicative** [prɪˈdɪkətɪv] *adj. ling.* прэдыкаты́ўны; **a predicative noun** прэдыкаты́ўны назо́ўнік

**predict** [prɪˈdɪkt] *v.* прадка́зваць; *It was predicted that inflation would rise.* Было прадказана, што інфляцыя павялі́чыцца.

**predictable** [prɪˈdɪktəbl] *adj.* прадказа́льны; *The outcome of these experiments is not entirely predictable*. Вынік гэтых эксперыментаў не можа быць дакладна прадказальным.

**prediction** [prɪˈdɪkʃn] *n.* прадказа́нне; прагно́з; праро́цтва

**predictive** [prɪˈdɪktɪv] *adj. fml* які́ прадвяшча́е, прадка́звае

**predictor** [prɪˈdɪktə] *n. fml* прадказа́льнік

**predispose** [ˌpriːdɪˈspəʊz] *v. fml* **1.** схіля́ць; **predispose smb. to do smth.** схіля́ць каго́-н. рабі́ць што-н. **2.** рабі́ць успрыма́льным (*да хваробы*)

**predisposition** [ˌpriːdɪspəˈzɪʃn] *n. fml* **(to/towards)** схі́льнасць; **predisposition to smth.** схі́льнасць да чаго́-н.

**predominance** [prɪˈdɒmɪnəns] *n.* перава́га; панава́нне

**predominant** [prɪˈdɒmɪnənt] *adj.* які́ пераважа́е, пану́е, прэвалі́руе

**predominate** [prɪˈdɒmɪneɪt] *v.* пераважа́ць, панава́ць, дамінава́ць; **predominate over smb./smth.** панава́ць над кім-н./чым-н.

**pre-eminent** [ˌprɪˈemɪnənt] *adj. fml* надзвыча́йны; выклю́чны; знакамі́ты

**pre-empt** [priˈempt] *v.* **1.** апярэ́дзіць (*каго-н. у чым-н.*); *He was just about to congratulate the boss when she pre-empted him.* Толькі ён сабраўся павіншаваць боса, як яна апярэдзіла яго. **2.** *AmE* замяні́ць запланава́ную тэлепраграму́; *The scheduled programme was pre-empted by a special news bulletin.* Запланаваную праграму замянілі спецыяльным выпускам навін.

**pre-emption** [prɪˈempʃn] *n. comm.* **1.** ску́пка **2.** перава́жнае пра́ва купля́ць (*што-н.*)

**pre-emptive** [prɪˈemptɪv] *adj.* апераджа́льны; **a pre-emptive attack** апераджа́льны ўдар

**preface**[1] [ˈprefəs] *n.* **(to)** прадмо́ва

**preface**[2] [ˈprefəs] *v.* **1.** рабі́ць усту́п; дава́ць прадмо́ву **2.** з’яўля́цца ўсту́пам

**prefer** [prɪˈfɜː] *v.* аддава́ць перава́гу; *I prefer tea to coffee.* Я болей люблю чай, чым каву.

**preferable** [ˈprefrəbl] *adj.* **(to)** (са́мы) ле́пшы, найле́пшы; яко́му аддае́цца перава́га; *He finds country life infinitely preferable to living in the city.* Ён лічыць, што значна лепей жыць у сельскай мясцовасці, чым у горадзе.

**preference** [ˈprefrəns] *n.* **(for)** вы́бар; перава́га ♦ **give (a) preference to smb./smth.** аддава́ць перава́гу каму́-н./чаму́-н.; **in preference to smb./smth.** аддаючы́ перава́гу каму́-н./чаму́-н. (*перад іншымі*)

**preferential** [ˌprefəˈrenʃl] *adj.* найле́пшы; пажада́ны, жада́ны

**preferment** [prɪˈfɜːmənt] *n. fml* павышэ́нне па слу́жбе

**prefix**[1] [ˈpriːfɪks] *n. ling.* прэ́фікс

**prefix**[2] [ˈpriːfɪks] *v. ling.* далуча́ць да сло́ва прыста́ўку, прэ́фікс

**prefixal** [ˈpriːfɪksl] *adj. ling.* прэфікса́льны

**prefixation** [ˌpriːfɪkˈseɪʃn] *n. ling.* прэфікса́цыя

**pregnancy** [ˈpregnənsi] *n.* цяжа́рнасць; **her third pregnancy** яе́ трэ́цяя цяжа́рнасць; *This drug should not be taken during pregnancy.* Гэтае лякарства нельга прымаць у перыяд цяжарнасці.

**pregnant** [ˈpregnənt] *adj.* **1.** цяжа́рная; **get/become pregnant** зацяжа́рацъ **2.** *fml* **(with)** по́ўны, бага́ты (*на што-н.*) ♦ **a pregnant pause/silence** шматзна́чная па́ўза/цішыня́

**preheat** [ˌpriːˈhiːt] *v.* папярэ́дне падагрэ́ць

**prehistoric** [ˌpriːhɪˈstɒrɪk] *adj.* дагістары́чны; **prehistoric animals** дагістары́чныя жывёлы

**prehistory** [ˌpriːˈhɪstri] *n.* **1.** перадгісто́рыя **2.** суку́пнасць зве́стак пра гістары́чную эпо́ху

**prejudice**[1] [ˈpredʒudɪs] *n.* **(against)** прадузя́тасць, забабо́ны, пры́мхі

**prejudice**[2] [ˈpredʒudɪs] *v.* **1.** **(against)** настро́йваць прадузя́та **2.** *fml* шко́дзіць, прычыня́ць стра́ту; псава́ць

**prejudicial** [ˌpredʒuˈdɪʃl] *adj. fml* **(to)** згу́бны, шко́дны

**preliminary**[1] [prɪˈlɪmɪnəri] *n.* падрыхто́ўчае мерапрые́мства, пе́ршы крок; папярэ́днія дзе́янні

**preliminary**[2] [prɪˈlɪmɪnəri] *adj.* **(to)** папярэ́дні; **preliminary inquiries/talks** папярэ́днія рассле́даванні/перагаво́ры

**prelude** [ˈpreljuːd] *n.* **1.** *mus.* прэлю́дыя; **Chopin’s preludes** прэлю́дыі Шапэ́на **2.** усту́п; пача́так

**premature** [ˈpremətʃə] *adj.* **1.** дачáсны, заўчáсны; **a premature birth** заўчáсныя рóды **2.** паспéшны, неабдýманы; **a premature decision** паспéшнае/неабдýманае рашэ́нне

**premeditate** [ˌpriːˈmedɪteɪt] *v.* абдýмваць, прадýмваць зáгадзя

**premeditated** [ˌpriːˈmedɪteɪtɪd] *adj.* абдýманы зáгадзя; наўмы́сны; **a premeditated murder** наўмы́снае забóйства

**premeditation** [ˌpriːˌmedɪˈteɪʃn] *n.* **1.** абдýмванне (чагó-н.) зáгадзя **2.** *law* наўмы́снасць

**premier**[1] [ˈpremiə] *n.* прэм'éр-мінíстр (*у газетным стылі*); **the Irish Premier** ірлáндскі прэм'éр

**premier**[2] [ˈpremiə] *adj.* **1.** пéршы; галóўны; **a premier dancer** салíст балéта **2.** пéршы, сáмы рáнні

**premiere**[1] [ˈpremieə] *n.* **1.** *theatre* прэм'éра **2.** пры́ма, актры́са на пéршых рóлях

**premiere**[2] [ˈpremieə] *v.* давáць прэм'éру; упершыню́ выступáць у галóўнай рóлі

**premise** [ˈpremɪs] *n. philos., fml* пасы́лка; **a false premise** памылкóвая пасы́лка

**premises** [ˈpremɪsɪz] *n. pl.* **1.** нерухóмая маёмасць **2.** памяшкáнне; буды́нак і тэрытóрыя, якáя прымыкáе (прылягáе) да ягó

**premium**[1] [ˈpriːmiəm] *n.* **1.** страхавы́ ўзнос **2.** узнагарóда, прэ́мія; узнагарóджанне; **a premium/bonus system** прэмія́льная сістэ́ма ♦ **at a premium** 1) якí карыстáецца вялíкім пóпытам; вéльмі каштóўны 2) вышэ́й за намінáльную вáртасць; **put/place/set a premium on smb./smth.** заахвóчваць; падтры́млівáць кагó-н./штó-н.

**premium**[2] [ˈpriːmiəm] *adj.* вышэ́йшай я́касці, вышэ́йшага гатýнку; выклю́чны

**premonition** [ˌpriːməˈnɪʃn] *n.* **(of)** прадчувáнне; **a premonition of danger** прадчувáнне небяспéкі; перасцярóга

**prenatal** [ˌpriːˈneɪtl] *adj.* дарóдавы

**preoccupation** [priˌɒkjuˈpeɪʃn] *n.* **(with)** заклапóчанасць; захóпленасць

**preoccupied** [priˈɒkjupaɪd] *adj.* **(with)** заклапóчаны; захóплены (чым-н.); *She was too preoccupied with her own problems to notice anything around.* Яна была так заклапочана сваімі ўласнымі праблемамі, што не заўважала нічога вакол.

**preoccupy** [priˈɒkjupaɪ] *v.* непакóіць, турбавáць; захапля́ць

**preordained** [ˌpriːɔːˈdeɪnd] *adj. fml* прадвы́значаны, вы́значаны напéрад

**prep** [prep] *n. BrE, infml* падрыхтóўка дамáшняга задáння (*школьніка*)

**prepacked** [ˌpriˈpækt] *adj.* (*таксама* **prepackaged**) расфасавáны; **prepacked goods** расфасавáныя тавáры

**prepaid** [ˌpriːˈpeɪd] *adj*. аплáчаны зáгадзя

**preparation** [ˌprepəˈreɪʃn] *n.* **1.** падрыхтóўка; прыгатавáнне; *The preparations are complete.* Прыгатаванні закончаны; *A new edition is in preparation.* Ідзе падрыхтоўка новага выдання. **2.** *med.* прэпарáт

**prepare** [prɪˈpeə] *v.* **1.** рыхтавáць; рыхтавáцца; падрыхтóўваць; падрыхтóўвацца, рабíць; **prepare a lesson** рыхтавáцца да ўрóка; *She was preparing breakfast in the kitchen.* Яна гатавала снеданне на кухні. **2.** рабíць лéкі ♦ **prepare the ground (for smth.)** рыхтавáць глéбу (для чагó-н.); *The ministers prepared the ground for the negotiations.* Міністры падрыхтавалі глебу для перагавораў.

**prepared** [prɪˈpeəd] *adj.* **(for)** падрыхтавáны; гатóвы; *Everything was prepared for the party.* Усё было падрыхтавана да прыёму гасцей; *They were prepared to set off.* Яны былі гатовы адправіцца ў дарогу.

**preparedness** [prɪˈpeərɪdnəs] *n. fml* гатóўнасць, падрыхтавáнасць

**prepayment** [ˌpriːˈpeɪmənt] *n.* **1.** папярэ́дняя аплáта **2.** авáнс

**preponderance** [prɪˈpɒndərəns] *n.* перавáга

**preponderant** [prɪˈpɒndərənt] *adj. fml* якí перавaжáе, дамінýе

**preposition** [ˌprepəˈzɪʃn] *n. ling.* **1.** прыназóўнік **2.** прэпазíцыя

**prepositional** [ˌprepəˈzɪʃənl] *adj. ling.* прыназóўнікавы; **a prepositional phrase** прыназóўнікавае словазлучэ́нне

**preposterous** [prɪˈpɒstərəs] *adj.* абсýрдны, недарэ́чны, бязглýзды; *The suggestion is preposterous.* Гэтая прапанова – абсурдная.

**prerecord** [ˌpriːrɪˈkɒːd] *v.* папярэ́дне запісáць (*радыё-, тэлепраграму і да т.п.*)

**prerequisite** [ˌpriːˈrekwəzɪt] *n.* **(for/of/to)** *fml* перадумóва, прадпасы́лка

**prerogative** [prɪˈrɒgətɪv] *n. fml* прэрагаты́ва; прывілéя; *A president has the prerogative of pardoning criminals.* Прэзідэнту належыць прэрагатыва памілавання злачынцаў.

**preschool**[1] [ˌpriːˈskuːl] *n. AmE* дашкóльная дзіця́чая ўстанóва

**preschool**[2] [ˈpriːskuːl] *adj.* дашкóльны

**prescribe** [prɪˈskraɪb] *v.* **1.** **(for)** назначáць, прапíсваць (*лякарства*); *If these don't work, I'll prescribe you something stronger.* Калі гэта не дапаможа, я прапішу вам што-небудзь больш моцнае. **2.** прадпíсваць; **penalties prescribed by the law** пакарáнні, прадпíсаныя закóнам

**prescription** [prɪˈskrɪpʃn] *n.* **1.** праппі́санае лякáрства; **make up a prescription** гатавáць лякáрства **2. (for)** рэцэ́пт; **a prescription for antibiotics** рэцэ́пт на антыбіётык; **available on prescription** *BrE*/ **available by prescription** *AmE* тóлькі па рэцэ́пце

**prescriptive** [prɪˈskrɪptɪv] *adj.* **1.** *fml* загадáны, прадпі́саны; **prescriptive documents** дырэктыўныя дакумéнты **2.** *ling.* нарматы́ўны; **prescriptive grammar** нарматы́ўная грамáтыка

**preselect** [ˌpriːsɪˈlekt] *v.* папярэ́дне адбірáць

**presence** [ˈprezns] *n.* **1.** прысýтнасць; **a massive police presence at a football match** прысýтнасць вялі́кай кóлькасці паліцэ́йскіх на футбóльным мáтчы ; **the UN presence** прысýтнасць вóйскаў ААН **2.** *lit.* што-н. таямні́чае, незямнóе; бóская альбó чарóўная сі́ла ♦ **in the presence of smb./in smb.'s presence** у прысýтнасці кагó-н.; **the presence of mind** прысýтнасць дýху

**present¹** [ˈpreznt] *n.* **1.** сучáснае, сучáснасць; **at present** у сучáсны мóмант, цяпéр, зáраз; **for the present** пакýль, на гэ́ты раз **2.** *ling.* **the present** цяпéрашні час

**present²** [ˈpreznt] *adj.* **1.** сучáсны, цяпéрашні; дáдзены; **present and past** цяпéрашні і мі́нулы; **at the present time** у цяпéрашні час; **his present address** ягó цяпéрашні áдрас; **in the present case** у дáдзеным вы́падку; **2.** прысýтны **3.** *ling.* цяпéрашні; **the present tense** цяпéрашні час ♦ **all present and correct** *BrE* усё ў парáдку

**present³** [ˈpreznt] *n.* падарýнак; **Christmas presents** калядныя падарýнкі; **birthday presents** падарýнкі на дзень нараджэ́ння; *This book was a present from my brother.* Гэтая кніга была падарункам майго брата.

**present⁴** [prɪˈzent] *v.* **1.** дары́ць, паднóсіць, уручáць; **present a prize to the winner/present the winner with a prize** уручáць прыз пераможцу **2.** прадстаўля́ць; пакáзваць, падавáць, прад'яўля́ць; **present a report/evidence** прадстаўля́ць даклáд/дóказы; **present one's passport/tickets** прад'яўля́ць пáшпарт/білéты **3.** перадавáць, пасылáць; **present one's apologies** прынéсці прабачэ́нні; **present one's compliments** вы́казаць пашáну **4.** знаёміць, прадстаўля́ць; *He was presented to the Queen.* Ён быў прадстаўлены каралеве. **5.** пакáзваць, давáць спектáкль; *The National Theatre is presenting a new production of "Hamlet".* Нацыянальны тэатр паказвае новую пастаноўку «Гамлета».

**presentable** [prɪˈzentəbl] *adj.* прыстóйны; рэспектáбельны; самаві́ты

**presentation** [ˌpreznˈteɪʃn] *n.* **1.** паднясéнне, падавáнне, уручэ́нне, дарэ́нне; *The presentation of awards began after the President's speech.* Уручэнне ўзнагарод пачалося пасля выступлення прэзідэнта. **2.** прэзентáцыя; *The presentation of a new product will take place in the afternoon.* Пасля абеду адбудзецца прэзентацыя новага прадукту. **3.** прадстаўлéнне, пакáз, пастанóўка (*спектакля*)

**present-day** [ˌprezntˈdeɪ] *adj.* сучáсны, цяпéрашні; **present-day fashions** сучáсная мóда; **present-day Europe** сучáсная Еўрóпа

**presenter** [prɪˈzentə] *n.* **1.** *BrE* вядýчы тэ́ле- і рáдыёпраграм **2.** той, хто рóбіць прэзентáцыі

**presently** [ˈprezntli] *adv.* **1.** хýтка, зáраз; *He'll be here presently.* Ён хутка будзе тут. **2.** у цяпéрашні час, цяпéр; *He's presently writing a book.* Ён цяпер піша кнігу.

**present participle** [ˌprezntˈpɑːtɪsɪpl] *n. ling.* дзеепрымéтнік цяпéрашняга чáсу

**present tense** [ˌprezntˈtens] *n. ling.* (*таксама* **the present**) цяпéрашні час

**preservation** [ˌprezəˈveɪʃn] *n.* **(of)** захавáнне, ахóва; **the preservation of works of art** ахóва мастáцкіх твóраў; **the preservation and conservation of wildlife** ахóва і захавáнне прырóды

**preservative** [prɪˈzɜːvətɪv] *n.* кансервáнт; *This milk doesn't contain any artificial preservatives.* Гэтае малако не ўтрымлівае ніякіх кансервантаў.

**preserve¹** [prɪˈzɜːv] *n.* **1.** варэ́нне **2.** *pl.* **preserves** кансервавáная садаві́на абó гарóдніна **3.** запавéднік

**preserve²** [prɪˈzɜːv] *v.* **1.** ахóўваць, захóўваць; падтры́мліваць; **preserve national traditions** захóўваць нацыянáльныя трады́цыі; *I think these traditional customs should be preserved.* Я лічу, што трэба захаваць гэтыя традыцыйныя звычаі. **2.** аберагáць; **preserve rare species from extinction** аберагáць рэ́дкія ві́ды ад вымірáння **3.** кансервавáць, нарыхтóўваць у запáс

**preserver** [prɪˈzɜːvə] *n.* захавáльнік

**preset** [ˌpriːˈset] *v.* **(preset)** зáгадзя ўстанáўліваць

**preside** [prɪˈzaɪd] *v.* **(at/over)** старшы́нстваваць, быць старшынёй; *John was asked to preside at the committee meeting.* Джона папрасілі старшынстваваць на сходзе камітэта.

**presidency** [ˈprezɪdənsi] *n.* **1.** прэзідэ́нцтва **2.** старшы́нства

**president** [ˈprezɪdənt] *n.* **1.** (*таксама* **President**) Прэзідэ́нт (*дзяржавы*); **the President of France** Прэзідэ́нт Фра́нцыі; **President Abama** прэзідэ́нт Аба́ма **2.** старшыня́ (*суда, журы, сената*) **3.** прэзідэ́нт, старшыня́ праўле́ння (*банка, кампаніі і да т.п.*)

**president-elect** [ˌprezɪdəntɪˈlekt] (*pl.* **presidents-elect**) *n.* абра́ны прэзідэ́нт, які́ яшчэ́ не заня́ў паса́ду

**presidium** [prɪˈsɪdiəm] *n.* прэзі́дыум

**press**[1] [pres] *n.* **1.** (*часта* **the press, the Press**) друк, прэса; **local/national/foreign press** мясцо́вая/нацыяна́льная/замежная прэ́са; **the freedom of the Press/press freedom** свабо́да дру́ку; **be in the press** быць у дру́ку **2.** друка́рскі стано́к **3.** друка́рня, выдаве́цтва; **Oxford University Press** выдаве́цтва О́ксфардскага ўніверсітэ́та **4.** цісканіна, таўкатня́ **5.** прасава́нне; **give smth. a press** вы́прасаваць што-н.

**press**[2] [pres] *v.* **1.** ці́снуць; прыціска́ць; **press the button** націска́ць на кно́пку; **press juice out of a lemon** выціска́ць сок з лімо́на **2.** прасава́ць **3.** насто́йваць, патрабава́ць, прымуша́ць; дамага́цца; *The bank is pressing up for a quick decision.* Банк патрабуе ад нас хуткага рашэння; **time presses/is pressing** час не чакае **4.** навя́зваць, ста́віць у ця́жкае стано́вішча; *We are pressed for time.* У нас няма часу. ♦ **press smth. home** перако́нваць, упэ́ўніваць; насто́йваць на чым-н.

**press down** [ˌpresˈdaʊn] *phr.v.* прыціска́ць

**press forward** [ˌpresˈfɔːwəd] *phr.v.* прабіва́цца, ру́хацца, праціска́цца напе́рад

**press in** [ˌpresˈɪn] *phr.v.* **1.** уціска́ць; прапі́хваць **2.** уціска́цца; праціска́цца; прапіха́цца

**press on** [ˌpresˈɒn] *phr.v. infml* спяша́цца; паспяша́цца

**press up** [ˌpresˈʌp] *phr.v.* **1.** адціска́ць, цясні́ць **2.** то́ўпіцца

**press agency** [ˈpresˌeɪdʒənsi] *n.* аге́нцтва дру́ку; газе́тнае аге́нцтва; інфармацы́йнае аге́нцтва

**press agent** [ˈpresˌeɪdʒənt] *n.* **1.** прадстаўні́к (*фірмы, кіназоркі і да т.п.*) па су́вязях з прэ́сай, грама́дскасцю і да т.п.; аге́нт па дру́ку і рэкла́ме **2.** складальнік рэкла́мных аб'я́ў

**press box** [ˈpresˌbɒks] *n.* ме́сца для прадстаўнікоў прэ́сы (*на стадыёне*)

**press conference** [ˈpresˌkɒnfərəns] *n.* прэс-канферэ́нцыя

**press gallery** [ˈpresˌgæləri] *n.* ме́сцы для прадстаўнікоў дру́ку (*у парламенце, на з'ездах і да т.п.*)

**pressing**[1] [ˈpresɪŋ] *n.* прэ́сінг; ціск

**pressing**[2] [ˈpresɪŋ] *adj.* **1.** тэрміно́вы, неадкла́дны; пі́льны, неабхо́дны; **pressing need** пі́льная патрэ́ба **2.** насто́йлівы; **since you are so pressing** калі́ вы так насто́йваеце

**pressman** [ˈpresmæn] *n.* (*pl.* **-men**) *BrE, infml* журналі́ст; рэпарцёр

**press office** [ˈpresˌɒfɪs] *n.* прэс-бюро́

**press officer** [ˈpresˌɒfɪsə] *n.* прэс-аташэ́

**press release** [ˈpresrɪˌliːs] *n.* прэс-рэлі́з, каро́ткае афіцы́йнае паведамле́нне для сро́дкаў ма́савай інфарма́цыі

**press secretary** [ˈpresˌsekrətri] *n.* прэс-сакрата́р

**pressure**[1] [ˈpreʃə] *n.* **1.** ціск; **atmospheric/blood pressure** атмасфе́рны/крывяны́ ціск **2.** на́ціск; прыці́ск **3.** уздзе́янне, уплы́ў, на́ціск **4.** ця́жкае стано́вішча, склада́ныя абста́віны **5.** прыгнёт; ціск; **pressure of taxation** падатко́вы прэс ♦ **put pressure on smb.** рабі́ць на́ціск на каго́-н.; **under pressure** пад на́ціскам; *I did it under pressure.* Я зрабіў гэта пад прымусам.

**pressure**[2] [ˈpreʃə] *v.* ака́зваць на́ціск, уплы́ў (*на каго-н.*)

**pressure cooker** [ˈpreʃəˌkʊkə] *n.* скарава́рка

**pressurize,** *BrE* **-ise** [ˈpreʃəraɪz] *v.* **1.** *BrE* **(into)** ака́зваць на́ціск, уплы́ў; прымуша́ць **2.** *tech.* герметызава́ць; падтры́мліваць павы́шаны ціск

**prestige**[1] [preˈstiːʒ] *n.* прэсты́ж; аўтарытэ́т

**prestige**[2] [preˈstiːʒ] *adj.* прэсты́жны; **a prestige car** шыко́ўны аўтамабі́ль

**prestigious** [preˈstɪdʒəs] *adj.* аўтарытэ́тны, прэсты́жны; **a prestigious job** прэсты́жная рабо́та; **a prestigious university** прэсты́жны ўніверсітэ́т; **a prestigious writer** прасла́ўлены пісьме́ннік

**presumably** [prɪˈzjuːməbli] *adv.* магчы́ма, вераго́дна

**presume** [prɪˈzjuːm] *v.* **1.** меркава́ць, дапуска́ць **2.** асме́львацца, адва́жвацца **3.** **(on/upon)** *fml* злоўжыва́ць

**presumption** [prɪˈzʌmpʃn] *n.* **1.** меркава́нне, дапушчэ́нне **2.** саманадзе́йнасць, высакаме́рнасць **3.** *law* прэзу́мпцыя; **the presumption of innocence** прэзу́мпцыя невінава́тасці

**presumptive** [prɪˈzʌmptɪv] *adj.* **1.** *law* меркава́ны; прэзумпцы́йны **2.** магчы́мы, вераго́дны; дапушча́льны

**presumptuous** [prɪˈzʌmptʃuəs] *adj. fml* (зана́дта) самаўпэ́ўнены/ саманадзе́йны; высакаме́рны; бесцырымо́нны

**presuppose** [ˌpriːsəˈpəʊz] *v. fml* **1.** лічы́ць, выка́зваць здага́дку, меркава́нне **2.** мець передумо́вай, прадугле́джваць

**presupposition** [ˌpriːsʌpəˈzɪʃn] *n. fml* меркава́нне, дапушчэ́нне
**pre-tax** [ˌpriːˈtæks] *adj.* налі́чаны да вы́платы пада́ткаў
**pretence** [prɪˈtens] *n. BrE* **1. (of)** прытво́рства, падма́н **2. (to)** прэтэ́нзія; **make no pretence** не прэтэндава́ць
**pretend** [prɪˈtend] *v.* **1.** прыкі́двацца, рабі́ць вы́гляд; *We're not really sisters; we were just pretending.* На самай справе мы не сёстры; мы толькі рабілі выгляд. **2.** (*звыч. пра дзяцей*) гуля́ць; уяўля́ць сябе́ кім-н. (*у гульні*); *Let's pretend to be astronauts.* Давайце гуляць у касманаўтаў. **3.** прэтэндава́ць (*звыч. у адм. і пыт. ск.*); *The picture does not pretend to be a great work of art.* Карціна не прэтэндуе называцца шэдэўрам.
**pretender** [prɪˈtendə] *n.* **1.** прэтэнде́нт, які́ не ма́е зако́нных право́ў **2.** прытво́ршчык, падма́ншчык
**pretense** [prɪˈtens] *AmE* = **pretence**
**pretention** [prɪˈtenʃn] *n.* прэтэ́нзія
**pretest**[1] [ˈpriːtest] *n.* **1.** папярэ́дні экза́мен; залі́к **2.** папярэ́дняе абсле́даванне
**pretest**[2] [ˈpriːtest] *v.* **1.** папярэ́дне экзаменава́ць **2.** папярэ́дне абсле́даваць
**pretext** [ˈpriːtekst] *n.* **(for)** (*выдуманая*) прычы́на, зачэ́пка, падста́ва; *We'll have to find a pretext for not going to the party.* Нам трэба будзе выдумаць прычыну, каб не пайсці на вечар.
**pretonic** [ˌpriːˈtɒnɪk] *adj. ling.* пераднаціскны́
**pretty**[1] [ˈprɪti] *adj.* **1.** прыго́жанькі, ла́дны, прыва́бны (*пра дзяцей, жанчын, маленькія рэчы*) **2.** мі́лы, чаро́ўны, цудо́ўны; **a pretty park** цудо́ўны парк; **pretty flowers** цудо́ўныя кве́ткі **3.** *iron.* вясёленькі, ніштó сабé; *A pretty mess you've made of it.* Ну і кашу ты заварыў. ♦ **as pretty as a picture** *dated* прыго́жы як карці́нка (карці́на); **a pretty penny** *dated* кру́гленькая су́ма
**pretty**[2] [ˈprɪti] *adv.* даво́лі, до́сыць; *The concert was pretty good.* Канцэрт быў даволі добры. ♦ **pretty much/well** *infml* ве́льмі, у зна́чнай ступе́ні; ама́ль; *He draws pretty well.* Ён малюе вельмі добра; **be sitting pretty** *infml* до́бра ўладкава́цца; быць у вы́гадным стано́вішчы
**prevail** [prɪˈveɪl] *v.* **1. (in/among)** пераважа́ць, прэвалі́раваць **2.** *fml* **(against/over smth.)** адо́лець, асі́ліць (што-н.); перамагчы́, узя́ць верх (*пра меркаванні, погляды*) **3. : prevail on/upon smb. to do smth.** *fml* пераканáць каго́-н. зрабі́ць што-н.
**prevailing** [prɪˈveɪlɪŋ] *adj.* які́ пераважа́е; перава́жны; які́ пану́е
**prevalent** [ˈprevələnt] *adj.* **(among, in)** (шыро́ка) распаўсю́джаны
**prevent** [prɪˈvent] *v.* **1.** папярэ́джваць, прадухіля́ць; **prevent crime** папярэ́джваць злачы́ннасць; **prevent an accident** прадухілі́ць няшча́сны вы́падак **2. (from)** замінá́ць, перашкаджа́ць, не дазваля́ць; *The rain prevented us from coming.* Дождж перашкодзіў нам прыйсці.
**prevention** [prɪˈvenʃn] *n.* прадухіле́нне; папярэ́джванне; засцяро́га; **accident/crime prevention** папярэ́джванне ава́рыі/злачы́нства ♦ **prevention is better than cure** *BrE* хваро́бу лягчэ́й папярэ́дзіць, чым вы́лечыць
**preventive** [prɪˈventɪv] *adj.* прэвенты́ўны; папераджа́льны, засцерага́льны; прафілакты́чны; **preventive medicine** прафілакты́чная медыцы́на; **a preventive war** прэвенты́ўная вайна́
**preview**[1] [ˈpriːvjuː] *n.* папярэ́дні прагля́д (*кінафільма, спектакля і да т.п.*)
**preview**[2] [ˈpriːvjuː] *v.* папярэ́дне прагляда́ць (*кінафільм, спектакль і да т.п.*)
**previous** [ˈpriːviəs] *adj.* **1.** папярэ́дні; *She has two children from a previous marriage.* У яе двое дзяцей ад папярэдняга шлюбу. **2.** заўча́сны, паспе́шны; *They have been a little too previous.* Яны крыху паспяшаліся.
**previously** [ˈpriːviəsli] *adv.* папярэ́дне, за́гадзя; ране́й, не́калі; *Previously he had lived in London.* Дагэтуль ён жыў у Лондане.
**pre-war** [ˌpriːˈwɔː] *adj.* перадвае́нны, давае́нны; **pre-war Belarus** давае́нная Белару́сь
**prey**[1] [preɪ] *n.* **1.** ахвя́ра (*пра чалавека*) **2.** здабы́ча (*пра звера, птушку*); **birds of prey** драпе́жныя пту́шкі ♦ **be/fall prey to smth.** *fml* быць/па́сці ахвя́рай чаго́-н.
**prey**[2] [preɪ] *v.* **(on/upon) 1.** палява́ць, лаві́ць; *Cats prey on birds and mice.* Каты ловяць птушак і мышэй. **2.** гра́біць; вымага́ць; жыць за чужы́ кошт; ашу́кваць ♦ **prey on smb.'s mind** му́чыць (*пра думкі, пачуцці, турботы і да т.п.*)
**price**[1] [praɪs] *n.* **1.** цана́; **a high/reasonable price** высо́кая/уме́раная цана; **at a low price** та́нна; **a market price** ры́начная цана́; **a price for smth.** цана́ за што-н.; **a price of smth.** цана́ чаго́-н.; *What's the price of this?* Колькі гэта каштуе?; *The price of oil has increased considerably.* Цана на нафту значна павялічылася; **prices are rising/going up** цэ́ны растýць **2.** каштóўнасць, цэ́ннасць; значэ́нне (*чаго-н.*) ♦ **at any price** любо́й цано́й (*дасягнуць мэты*); **at a price** за вялі́кую цану́, до́рага;

**beyond price** цаны́ няма́ (*каму-н./чаму-н.*); бясцэ́нны, неацэ́нны

**price²** [praɪs] *v.* **1.** вызнача́ць цану́; ацэ́ньваць; ука́зваць цану́ на тава́ры; *The pictures have not been priced yet.* Цана карцін яшчэ не вызначана. **2.** прыцэ́ньвацца ♦ **price oneself/smth. out of the market** залама́ць ве́льмі высо́кую цану́

**price controls** [ˈpraɪskənˌtrəʊlz] *n. pl. econ.* кантро́ль над цэ́намі

**priceless** [ˈpraɪsləs] *adj.* **1.** бясцэ́нны, неацэ́нны; **priceless antiques** бясцэ́нны антыкварыя́т **2.** *infml* сме́шны, заба́ўны

**price list** [ˈpraɪslɪst] *n.* прайс-ліст, прэйскура́нт, спіс цэн (*на ўсе тавары і паслугі*)

**price war** [ˈpraɪsˌwɔː] *n.* «вайна́ цэн»; цэ́навая канкурэ́нцыя

**pricing** [ˈpraɪsɪŋ] *n.* цэнаўтварэ́нне

**prick¹** [prɪk] *n.* **1.** уко́л, прако́л **2.** след ад уко́ла **3.** боль ад уко́ла

**prick²** [prɪk] *v.* **1. (with)** кало́ць, прако́лваць; пратыка́ць; *Prick holes in the paper with a pin.* Пракаліце шпількай дзірачкі ў паперы. **2. (on)** укало́ць; укало́цца; адчу́ць боль; *She pricked her finger on the needle.* Яна ўкалола палец іголкай. **3.** кало́цца; вы́клікаць боль ♦ **prick one's conscience/your conscience pricks you** адчува́ць дако́ры сумле́ння; **prick (up) one's ears** 1) наста́віць/натапы́рыць ву́шы (*пра жывёл*) 2) навастры́ць ву́шы; ува́жліва слу́хаць

**prickle¹** [ˈprɪkl] *n.* калю́чка

**prickle²** [ˈprɪkl] *v.* адчува́ць пако́лванне

**prickly** [ˈprɪkli] *adj.* **1.** калю́чы; **prickly bushes** калю́чыя кусты́ **2.** які́ адчува́е пако́лванне, калаццё; **a prickly sensation** адчува́нне пако́лвання **3.** які́ прычыня́е турбо́ты **4.** *infml* запа́льчывы; раздражня́льны; злaслі́вы; *He was in a very prickly mood that morning.* Ён быў вельмі раздражнёны той раніцай.

**pride¹** [praɪd] *n.* **1.** го́рдасць (*у розных знач.*); **take (a) pride in smth.** ганары́цца чым-н.; *This picture is the pride of the collection.* Гэтая карціна – гордасць калекцыі. **2.** пачуццё ўла́снай го́днасці; самапава́га **3.** самалю́бства; **false pride** фанабэ́рыя, ганары́стасць **4.** прадме́т го́рдасці; *This student is our university's pride.* Гэты студэнт – гордасць нашага ўніверсітэта. **5. the pride** найвышэ́йшая ступе́нь, ро́сквіт; **in the pride of youth/years** у ро́сквіце юна́цтва/гадо́ў ♦ **pocket/swallow one's pride** утаймава́ць сваю́ го́рдасць; **pride goes before a fall** ганарлі́васць да дабра́ не давядзе́

**pride²** [praɪd] *v.* ганары́цца; **pride oneself on smth./on doing smth.** ганары́цца чым-н.; *He prides himself on being independent of his parents.* Ён ганарыцца сваёй незалежнасцю ад бацькоў.

**priest** [priːst] *n.* **1.** свяшчэ́ннік, свята́р; **a parish priest** кюрэ́ **2.** жрэц; **a high priest** вярхо́ўны жрэц

**priestess** [ˈpriːstəs] *n.* жры́ца

**prig** [prɪg] *n.* педа́нт; фармалі́ст; самазадаво́лены чалаве́к

**priggish** [ˈprɪgɪʃ] *adj.* педанты́чны; самазадаво́лены

**prima ballerina** [ˌpriːməˌbæləˈriːnə] *n.* пры́мабалеры́на

**primacy** [ˈpraɪməsi] *n. fml* першынство́; вяршэ́нства

**prima donna** [ˌpriːməˈdɒnə] *n.* прымадо́нна

**primarily** [praɪˈmerəli] *adv.* папярэ́дне; галоўным чы́нам

**primary¹** [ˈpraɪməri] *n.* папярэ́днія вы́бары; **the presidential primaries** папярэ́днія прэзідэ́нцкія вы́бары

**primary²** [ˈpraɪməri] *adj.* **1.** першапачатко́вы, са́мы ра́нні, пе́ршы; **a primary source** першакрыні́ца **2.** элемента́рны, пачатко́вы; **a primary school** пачатко́вая шко́ла (*у Вялікабрытаніі – ад 5 да 11 гадоў*) **3.** асно́ўны, найважне́йшы; **a matter of primary importance** спра́ва першапачатко́вай ва́жнасці **4.** *ling.* 1) каранёвы; **a primary word** каранёвае сло́ва 2) асно́ўны; **a primary stress** гало́ўны на́ціск

**prime¹** [praɪm] *n.* ро́сквіт; **in the prime of life** у ро́сквіце сіл

**prime²** [praɪm] *adj.* **1.** пе́ршы, зыхо́дны; **prime cost** сабеко́шт; **a prime number** *math.* про́стая лі́чба **2.** гало́ўны, асно́ўны; *Smoking is the prime cause of heart disease.* Курэнне – галоўная прычына захворвання сэрца. **3.** найле́пшы

**prime³** [praɪm] *v.* інструктава́ць; за́гадзя забяспе́чваць зве́сткамі ♦ **prime the pump** стымулява́ць рост эканамі́чнай акты́ўнасці

**prime minister** [ˌpraɪmˈmɪnɪstə] *n.* (*таксама* **Prime Minister**) прэм'е́р-міні́стр

**prime time** [ˌpraɪmˈtaɪm] *n.* прайм-тайм; найле́пшы і са́мы дарагі́ эфі́рны час на ра́дыё і тэлеба́чанні

**primitive** [ˈprɪmɪtɪv] *adj.* **1.** першабы́тны; **primitive man** першабы́тны чалаве́к **2.** прымітыўны, про́сты; **primitive tools made from stones** прымітыўныя інструме́нты, зро́бленыя з ка́меню **3.** старамо́дны

**primrose** [ˈprɪmrəʊz] *n. bot.* першацве́т, пры́мула ♦ **the primrose path** *lit.* шлях, усы́паны ру́жамі

**prince** [prɪns] *n.* **1.** прынц; **Prince Albert** прынц Альбе́рт; **the royal prince** насле́дны прынц; стар́эйшы сын караля́; **Regent Prince** прынц-рэ́гент; **the Prince of Wales** прынц Уэ́льскі (*наследны прынц у Англіі*); **the Prince Consort** прынц-кансо́рт (*у Англіі*) **2.** *lit.* выда́тны дзе́яч; чалаве́к выклю́чных я́касцей; **the prince of poets** цар паэ́таў **3.** «каро́ль»; **the prince of swindlers (rogues)** *joc.* каро́ль махляро́ў

**Prince Charming** [ˌprɪnsˈtʃɑːmɪŋ] *n. hum.* чаро́ўны прынц; *Linda is still waiting for her Prince Charming.* Лінда ўсё яшчэ чакае свайго прынца.

**princess** [ˌprɪnˈses,ˈprɪnses] *n.* прынцэ́са; **Princess Diana** прынцэ́са Дыя́на

**principal[1]** [ˈprɪnsəpl] *n.* **1.** *BrE* рэ́ктар; дырэ́ктар (*каледжа, школы*) **2.** капіта́л **3.** вяду́чы акцёр або́ музыка́нт

**principal[2]** [ˈprɪnsəpl] *adj.* **1.** галоўны, асно́ўны; *The principal character in the book is called Scarlett.* Галоўную гераіню кнігі завуць Скарлет. **2.** *ling.* гало́ўны; **principal clause** гало́ўны сказ; **principal forms of the verb** асно́ўныя фо́рмы дзеясло́ва

**principle** [ˈprɪnsəpl] *n.* **1.** но́рма, асно́ўнае пра́віла (паво́дзін); пры́нцып (*у розных знач.*); **a man of principle** прынцыпо́вы чалаве́к; **a man without principles** беспрынцы́пны чалаве́к; **on principle** прынцыпо́ва; **stick to one's principles** прытры́млівацца сваі́х пры́нцыпаў **2.** пры́нцып, асно́ва, зако́н; **Archimed's principle** зако́н Архіме́да; **the principle of universal gravitation** зако́н сусве́тнага прыцягне́ння **3.** пры́нцып (*работы*), асно́ва (*дзеяння, канструкцыі*) ♦ **in principle** у пры́нцыпе

**print[1]** [prɪnt] *n.* **1.** адбі́так, след (*таксама перан.*) **2.** друк (*у розных знач.*); **in print** 1) у дру́ку 2) у про́дажы (*пра кнігу, часопіс і да т.п.*); **out of print** распрада́дзена (*пра кнігу і да т.п.*) **3.** шрыфт; **in bald/small print** буйны́м/дро́бным шры́фтам **4.** гравю́ра, эста́мп **5.** парка́ль; **a cotton print dress** паркалёвая набіўна́я суке́нка **6.** ко́пія фатагра́фіі

**print[2]** [prɪnt] *v.* **1.** адбіва́цца, пакіда́ць след (*таксама перан.*) **2.** друкава́ць (*у розных знач.*) **3.** піса́ць друкава́нымі лі́тарамі **4.** публікава́ць, змяшча́ць у дру́ку **5.** пяча́таць (*фатаграфіі*)
**print off** [ˌprɪntˈɒf] *phr.v.* раздрукава́ць (*на камп'ютары*)
**print out** [ˌprɪntˈaʊt] *phr.v.* = **print off**

**printer** [ˈprɪntə] *n.* **1.** друка́р **2.** *comput.* пры́нтар; **a colour/laser printer** каляро́вы/ла́зерны пры́нтар

**printing** [ˈprɪntɪŋ] *n.* **1.** друкава́нне; **a printing and publication department** рэдакцы́йна-выдаве́цкі аддзе́л **2.** друкава́нае выда́нне

**printout** [ˈprɪntaʊt] *n. comput.* (камп'ютарная) раздруко́ўка

**prior** [ˈpraɪə] *adj.* **1.** папярэ́дні; *I have a prior arrangement.* Я ўжо абяцаў (дамовіўся) (*у адказ на прапанову*). **2.** перава́жны; **have a prior claim** мець перава́жнае пра́ва

**priority** [praɪˈɒrəti] *n.* **1.** прыярытэ́т **2.** першачарго́васць; тэрміно́васць; **a top priority** найважне́йшая спра́ва

**prison** [ˈprɪzn] *n.* **1.** турма́; **put smb. in prison** пасадзі́ць каго́-н. у турму́; **be in prison** знахо́дзіцца ў зняво́ленні/турме́; **be sent to prison** быць прыгаво́раным да турэ́мнага зняво́лення; **escape from prison** уцячы́ з турмы́; *He will be released from prison next week.* Яго вызпусцяць з турмы на наступным тыдні. **2.** турма́, няво́ля; зняво́ленне

**prisoner** [ˈprɪznə] *n.* зняво́лены; пало́нны; **political prisoners** паліты́чныя зняво́леныя; **take smb. prisoner** узя́ць каго́-н. у пало́н; **keep/hold smb. prisoner** трыма́ць каго́-н. у пало́не

**prisoner of conscience** [ˌprɪznəəvˈkɒnʃəns] *n.* вя́зень сумле́ння

**prisoner of war** [ˌprɪznəəvˈwɔː] *n.* ваеннапало́нны

**pristine** [ˈprɪstiːn] *adj.* **1.** чы́сты **2.** некрану́ты, несапсава́ны

**privacy** [ˈprɪvəsi] *n.* **1.** адасо́бленасць **2.** канфідэнцыя́льнасць

**private[1]** [ˈpraɪvɪt] *n.* **1.** *BrE, mil.* (*таксама* **private soldier**) радавы́ **2.** *pl.* **privates** *infml* во́нкавыя палавы́я о́рганы ♦ **in private** канфідэнцыя́льна, сакрэ́тна

**private[2]** [ˈpraɪvɪt] *adj.* **1.** асабі́сты, прыва́тны; **private life** асабі́стае жыццё; **private property** прыва́тная ўла́снасць **2.** канфідэнцыя́льны, закры́ты; **private viewing** закры́ты прагля́д **3.** ці́хі, адасо́блены

**private company** [ˌpraɪvɪtˈkʌmpəni] *n. comm.* прыва́тная кампа́нія

**private enterprise** [ˌpraɪvɪtˈentəpraɪz] *n. comm.* прыва́тнае прадпрые́мства

**privately** [ˈpraɪvɪtli] *adv.* прыва́тна; асабі́ста; канфідэнцыя́льна, сакрэ́тна

**privation** [praɪˈveɪʃn] *n. fml* няста́ча

**privatization, -isation** [ˌpraɪvətaɪˈzeɪʃn] *n.* прыватыза́цыя

**privatize,** *BrE* **-ise** [ˈpraɪvətaɪz] *v.* прыватызава́ць, перадава́ць ва ўла́снасць

**privilege[1]** [ˈprɪvəlɪdʒ] *n.* прывіле́я (*у розных знач.*); **it's my privilege** я ма́ю го́нар; **the**

**privilege of Parliament** дэпута́цкая недатыка́льнасць
**privilege**[2] [ˈprɪvəlɪdʒ] *v. fml* дава́ць прывіле́ю
**prize**[1] [praɪz] *n.* прэ́мія; прыз; узнагаро́да; **the Nobel Prize** Но́белеўская прэ́мія
**prize**[2] [praɪz] *adj*. **1.** прызавы́; прэмія́льны **2.** узнагаро́джаны **3.** ва́рты ўзнагаро́ды
**prize**[3] [praɪz] *v.* **(for)** высо́ка цані́ць, ацэ́ньваць
**prizewinner** [ˈpraɪzwɪnə] *n.* прызёр
**pro** [prəʊ] *n.* (*pl.* **pros**) *infml* прафесіяна́л; *You read that like a pro.* Ты чытаеш гэта як прафесіянал. ♦ **the pros and cons** аргуме́нты або́ галасы́ «за» і «су́праць»
**probability** [ˌprɒbəˈbɪləti] *n.* імаве́рнасць, магчы́масць; **in all probability** напэ́ўна, ма́быць, му́сіць
**probable**[1] [ˈprɒbəbl] *n.* **(for)** магчы́мы вы́бар; магчы́мы кандыда́т і да т.п.
**probable**[2] [ˈprɒbəbl] *adj.* імаве́рны, магчы́мы; **highly/most probable** найбо́льш верагодны; *A victory doesn't seem probable at this stage.* Перамога не здаецца магчымай на дадзеным этапе.
**probably** [ˈprɒbəbli] *adv.* напэ́ўна, му́сіць, віда́ць; *Probably, the best way to learn Spanish is by actually going to live in Spain.* Магчыма, самы лепшы спосаб вывучыць іспанскую мову – гэта пажыць у Іспаніі.
**probation** [prəˈbeɪʃn] *n.* **1.** *law* умо́ўнае асуджэ́нне; *He was given two years' probation.* Яму далі два гады ўмоўна. **2.** выпрабава́нне; стажыро́ўка; выпрабава́льны тэ́рмін
**probationer** [prəˈbeɪʃnə] *n.* **1.** стажо́р; стажо́рка **2.** умо́ўна асу́джаны
**probe**[1] [prəʊb] *n.* **1.** расследаванне **2.** *med.* зонд; зандзіраванне
**probe**[2] [prəʊb] *v.* **1.** расле́даваць **2.** *med.* занды́раваць
**probity** [ˈprəʊbəti] *n.* сумле́ннасць
**problem**[1] [ˈprɒbləm] *n.* **1.** прабле́ма, пыта́нне; **the housing problem** жыллёвае пыта́нне **2.** прабле́ма, ця́жкасць; **solve a problem** вы́рашыць праблему; **financial problems** фіна́нсавыя прабле́мы **3.** *math.* зада́ча ♦ **have a problem with smth.** мець прабле́му з чым-н.; **no problem** *infml* вядо́ма, безумо́ўна (*у адказ на просьбу*)
**problem**[2] [ˈprɒbləm] *adj.* ця́жкі, прабле́мны; **a problem child** прабле́мнае дзіця́
**problematic(al)** [ˌprɒbləˈmætɪk(l)] *adj.* праблематы́чны
**procedure** [prəˈsiːdʒə] *n.* працэду́ра; **emergency/disciplinary procedures** надзвыча́йныя/дысцыплiна́рныя працэду́ры
**proceed** [prəˈsiːd] *v.* **1. (with)** праця́гваць рабіць пача́тае; *Please proceed with your report.* Калі ласка, чытайце ваш даклад далей. **2.** *fml* ісці́, накіро́ўвацца; **proceed on a journey** праця́гваць падаро́жжа **3.** аднаўля́ць, перахо́дзіць (*да чаго-н.*); прыступа́ць (*да чаго-н.*)
**proceeding** [prəˈsiːdɪŋ] *n.* **1.** *pl.* **proceedings** пра́цы, запі́скі **2.** пасяджэ́нне
**process**[1] [ˈprəʊses] *n.* **1.** працэ́с (*у розных знач.*); **the digestive process** страва́ва́льны працэ́с **2.** цячэ́нне, рух, ход; **in process of time** з ця́гам ча́су
**process**[2] [ˈprəʊses] *v.* **1.** *comput.* апрацо́ўваць; **process information** апрацо́ўваць інфарма́цыю на камп'ю́тары **2.** апрацо́ўваць; **process leather** апрацо́ўваць ску́ру; **processed cheese** пла́ўлены сыр
**procession** [prəˈseʃn] *n.* працэ́сія, шэ́сце; **a funeral procession** пахава́льная працэ́сія
**processor** [ˈprəʊsesə] *n. comput*. працэ́сар
**proclaim** [prəˈkleɪm] *v.* **1.** абвяшча́ць; **proclaim a holiday** абвясці́ць свя́та; *His son was immediately proclaimed King.* Яго сына адразу абвясцілі каралём. **2.** *fml* све́дчыць, пака́зваць; *His accent proclaimed him a Pole.* Вымаўленне сведчыла, што ён паляк.
**proclamation** [ˌprɒkləˈmeɪʃn] *n.* афіцы́йная аб'я́ва; дэклара́цыя
**prodigy** [ˈprɒdədʒi] *n.* **1.** незвыча́йна адо́раны малады́ чалаве́к; **a child/an infant prodigy** вундэркі́нд; **a musical prodigy** цудо́ўны музыка́нт **2.** цуд, дзі́ва; чаро́ўнасць
**produce**[1] [ˈprɒdjuːs] *n.* праду́кцыя, вы́рабы; праду́кты
**produce**[2] [prəˈdjuːs] *v.* **1.** вырабля́ць, выро́шчваць; *Canada produces high-quality wheat.* Канада вырошчвае высакаякасную пшаніцу. **2.** прад'яўля́ць, прадстаўля́ць **3.** выклiка́ць, быць прычы́най; **produce results** дава́ць вы́нікі **4.** ста́віць, ствара́ць (*п'есу, фільм і да т.п.*)
**producer** [prəˈdjuːsə] *n.* **1.** вытво́рца; *England is a producer of high quality wool.* Англія – вытворца высакаякаснай шэрсці. **2.** прадзю́сар; рэжысёр-пастано́ўшчык; *Ned's the news producer at Channel 7.* Нэд – прадзюсар праграмы навін на сёмым канале.
**product** [ˈprɒdʌkt] *n.* **1.** (*прамысловы*) праду́кт, вы́раб; **food products** харчо́выя праду́кты; **gross national product** валавы́ праду́кт; суку́пны грама́дскі праду́кт **2.** вы́нік; **products of one's labour** вы́нікі чыёй-н. пра́цы **3.** *math.* здабы́так
**production** [prəˈdʌkʃn] *n.* **1.** вытво́рчасць, вы́раб; **oil production** здабы́ча на́фты; **mass produc-**

**tion** ма́савая вытво́рчасць; **a production line** пато́чная лі́нія **2.** праду́кцыя **3.** пастано́ўка; **a new production of "King Lear"** но́вая пастано́ўка «Караля́ Лі́ра» ♦ **on production of smth.** *fml* пры прад'яўле́нні чаго́-н.

**productive** [prəˈdʌktɪv] *adj.* **1.** прадукты́ўны; *Many of us are more productive in the morning.* Многія з нас больш плённа працуюць раніцай. **2.** прадукцы́йны **3.** урадлі́вы; плённы; **a productive author** пладаві́ты а́ўтар

**productivity** [ˌprɒdʌkˈtɪvəti] *n.* прадукцы́йнасць; **high productivity** высо́кая прадукцы́йнасць

**Prof.** (*пісьмовае скар. ад* **Professor**) (*ужываецца перад прозвішчам*) **: Prof. Mike Nilson** Прафе́сар Майк Ні́лсан

**profess** [prəˈfes] *v. fml* **1.** адкры́та прызнава́ць; заяўля́ць; **profess too much** абяца́ць ве́льмі мно́га **2.** прытвара́цца, прыкі́двацца **3.** спавяда́ць (*веру*)

**professed** [prəˈfest] *adj. fml* **1.** адкры́ты, я́ўны **2.** прытво́рны; уя́ўны; вы́думаны

**profession** [prəˈfeʃn] *n.* **1.** прафе́сія, спецыя́льнасць; *He is a doctor by profession.* Ён па прафесіі ўрач. **2. the profession** асо́бы яко́й-н. прафе́сіі; **the legal/medical/teaching profession** юры́сты/урачы́/ наста́ўнікі **3.** зая́ва, запэ́ўненне

**professional**[1] [prəˈfeʃənl] *n.* **1.** прафесіяна́л **2.** спартсме́н-прафесіяна́л

**professional**[2] [prəˈfeʃənl] *adj.* прафесіяна́льны; прафесі́йны; **professional advice** прафесіяна́льная пара́да

**professionally** [prəˈfeʃənli] *adv*. прафесіяна́льна; прафесі́йна; **a professionally trained staff** прафесіяна́льна падрыхтава́ны персана́л

**professor** [prəˈfesə] *n.* **1.** прафе́сар (*універсітэта*) **2.** *AmE* выкла́дчык (*універсітэта, каледжа*)

**proffer** [ˈprɒfə] *v. fml* прапано́ўваць

**proficiency** [prəˈfɪʃnsi] *n*. майстэ́рства, уме́льства

**proficient** [prəˈfɪʃnt] *adj*. уме́лы, майстэ́рскі, во́пытны; **proficient (in/at smth.)/(in/at doing smth.)** во́пытны (у чым-н.)

**profile**[1] [ˈprəʊfaɪl] *n.* **1.** про́філь, від збо́ку; **in profile** у про́філь **2.** апіса́нне, характары́стыка **3.** біяграфі́чны на́рыс

**profile**[2] [ˈprəʊfaɪl] *v*. даць характары́стыку, апіса́нне (*каго-н./чаго-н*.)

**profit**[1] [ˈprɒfɪt] *n.* **1.** прыбы́так, дахо́д; **gross profit** валавы́ дахо́д; **net profit** чы́сты прыбы́так **2.** *fml* кары́сць, вы́гада; *It would be your profit.* Гэта будзе табе карысна.

**profit**[2] [ˈprɒfɪt] *v. fml* **(by/from)** прыно́сіць кары́сць, быць кары́сным; атры́мліваць вы́гаду

**profitable** [ˈprɒfɪtəbl] *adj.* вы́гадны, кары́сны; **highly profitable business** ве́льмі вы́гадны бі́знес

**profound** [prəˈfaʊnd] *adj.* глыбо́кі (*перан.*); мо́цны; сур'ёзны; **a profound thought** глыбо́кая ду́мка; **with profound regret** з глыбо́кім жа́лем; **profound changes** кардына́льныя пераме́ны; *The mother's behaviour has a profound impact on the child.* Паводзіны маці глыбока ўплываюць на дзіця.

**program**[1] [ˈprəʊgræm] *n. comput.* прагра́ма; **a program written for financial analysis** прагра́ма, зро́бленая для фіна́нсавага ана́лізу

**program**[2] [ˈprəʊgræm] *v. comput*. праграмава́ць

**program**[3] [ˈprəʊgræm] *AmE* = **programme**

**programme**[1] [ˈprəʊgræm] *n. BrE* **1.** план; прагра́ма (*у розных знач.*); **radio/TV programme** ра́дыё-/тэлеперада́ча; *What's on the programme today?* Якая ў нас праграма на сёння?

**programme**[2] [ˈprəʊgræm] *v. BrE* планава́ць; праграмава́ць

**programmer** [ˈprəʊgræmə] *n. comput*. праграмі́ст

**progress**[1] [ˈprəʊgres] *n.* **1.** рух напе́рад, прагрэ́с, развіццё **2.** по́спех; дасягне́нні; **make progress** рабі́ць по́спехі; **economic/scientific/technical progress** эканамі́чны/навуко́вы/тэхні́чны прагрэ́с; *He's making progress.* Ён робіць поспехі. ♦ **in progress** у развіцці́, у працэ́се; *The exam is now in progress.* Зараз ідзе экзамен.

**progress**[2] [prəˈgres] *v*. **1.** прагрэсі́раваць, развіва́цца **2.** рабі́ць по́спехі

**progressive** [prəˈgresɪv] *adj.* **1.** прагрэсі́ўны, перадавы́; **a progressive political party** прагрэсі́ўная палі́ты́чная па́ртыя; **progressive ideas/schools/reforms** перадавы́я ідэ́і/шко́лы/рэфо́рмы **2.** які́ прагрэсі́руе

**prohibit** [prəˈhɪbɪt] *v. fml* **1.** забараня́ць; **prohibit smb. from doing smth.** забараня́ць каму́-н. рабі́ць што-н.; *Smoking is strictly prohibited inside the factory.* На фабрыцы курыць строга забаронена. **2.** перашкаджа́ць

**prohibition** [ˌprəʊɪˈbɪʃn] *n.* **1. (against/on)** забаро́на; **a prohibition against selling firearms** забаро́на на про́даж агнястрэ́льнай збро́і **2. Prohibition** сухі́ зако́н (*у ЗША з 1920 па 1933 г.*)

**project**[1] [ˈprɒdʒekt] *n.* пра́ект, план; прагра́ма; **a long-term project to help the homeless** доўгатэрміно́вая прагра́ма дапамо́гі бяздо́мным

**project²** [prəˈdʒekt] *v.* праектава́ць, склада́ць план, прае́кт

**projector** [prəˈdʒektə] *n.* **1.** пражэ́ктар **2.** кінапрае́ктар

**prolific** [prəˈlɪfɪk] *adj.* **1.** пладаві́ты; **a prolific writer** пладаві́ты пісьме́ннік **2.** пладано́сны, пло́дны **3.** ураджа́йны; урадлі́вы; **a prolific year for wheat** ураджа́йны год на пшані́цу

**prolix** [ˈprəʊlɪks] *adj. fml* ну́дны, цягу́чы; марко́тны; шматсло́ўны; **a prolix speech** ну́дная прамо́ва

**prologue** [ˈprəʊlɒg] *n.* **1.** прало́г **2.** пача́так (*чаго-н.*)

**prolong** [prəˈlɒŋ] *v.* пралангава́ць, прадаўжа́ць тэ́рмін (*чаго́-н.*); **drugs that help to prolong life** ле́кі, які́я дапамага́юць падо́ўжыць жыццё; *They prolonged their visit by a few days.* Яны прадоўжылі свой візіт на некалькі дзён.

**prolongation** [ˌprəʊlɒŋˈgeɪʃn] *n. fml* пралангá-цыя, прадаўжэ́нне

**prolonged** [prəˈlɒŋd] *adj.* пралангава́ны

**promenade¹** [ˌprɒməˈnɑːd] *n.* **1.** *dated* прагу́лка, прагуля́нка, шпа́цыр **2.** ме́сца для прагу́лкі, праменáд

**promenade²** [ˌprɒməˈnɑːd] *v. dated* прагу́львацца, разгу́льваць, шпацырава́ць

**prominent** [ˈprɒmɪnənt] *adj.* **1.** до́бра вядо́мы, вялі́кі, выда́тны, зна́чны; **a prominent English scientist** выда́тны англі́йскі вучо́ны **2.** які́ выступа́е (*уперад*); ба́чны, прыме́тны; **put smth. a prominent position** паста́віць што-н., каб было́ ба́чна; **prominent teeth** зу́бы, які́я выступа́юць (*уперад*); **prominent cheekbones** высо́кія ску́лы

**promise¹** [ˈprɒmɪs] *n.* **1.** абяца́нне; **give/make a promise** дава́ць абяца́нне, абяца́ць; **keep/break a promise** выќонваць/паруша́ць абяца́нне **2.** перспекты́ва, надзе́я; *She shows promise.* Яна падае надзеі.

**promise²** [ˈprɒmɪs] *v.* **1.** абяца́ць; *Hurry up! We promised that we wouldn't be late.* Спяшайся! Мы абяцалі, што не спознімся. **2. :** *It promises to be a good harvest.* Ураджай абяцае быць добрым. ♦ **I (can) promise you** *infml* абяца́ю вам; бу́дзьце ўпэ́ўнены

**promising** [ˈprɒmɪsɪŋ] *adj.* перспекты́ўны; шматабяца́ючы; **a promising young actor** шматабяца́ючы малады́ акцёр; *The weather doesn't look very promising.* Надвор'е не абяцае нічога добрага.

**promote** [prəˈməʊt] *v.* **1.** прасо́ўваць (*у чыне або званні*) **2.** садзе́йнічаць, падтры́мліваць, заахво́чваць; **promote tourism** заахво́чваць развіццё туры́зму **3.** рэкламава́ць, садзе́йнічаць про́дажу

**promoter** [prəˈməʊtə] *n.* прамо́ўтар

**promotion** [prəˈməʊʃn] *n.* **1.** прасо́ўванне па слу́жбе **2.** садзе́йнічанне (*развіццю*); заахво́чванне, падтры́мка **3.** прамо́ўшн, рэкламава́нне

**prompt¹** [prɒmpt] *n.* **1.** падка́зка; напамі́н **2.** *comput.* падка́зка

**prompt²** [prɒmpt] *v.* **1.** прымуша́ць; *What prompted you to do that?* Што вас прымусіла зрабіць гэта? **2.** падахво́чваць; падка́зваць; выкліка́ць (*думкі, пачуцці*) **3.** *theatre* суфлі́раваць

**prompt³** [prɒmpt] *adj.* ху́ткі, неадкла́дны; **a prompt answer** неадкла́дны адка́з; **a prompt delivery** ху́ткая даста́ўка (*чаго-н.*)

**prompt box** [ˈprɒmptbɒks] *n.* суфлёрская бу́дка

**prompter** [ˈprɒmptə] *n.* суфлёр

**promptly** [ˈprɒmptli] *adv.* ху́тка, неадкла́дна

**prone** [prəʊn] *adj.* **1.** схі́льны **2.** распрасцёрты

**pronoun** [ˈprəʊnaʊn] *n. ling.* займе́ннік

**pronounce** [prəˈnaʊns] *v.* **1.** вымаўля́ць; *How do you pronounce your name?* Як вымаўляецца ваша імя? **2.** *fml* аб'яўля́ць; заяўля́ць; *I pronounce you man and wife.* Аб'яўляю вас мужам і жонкай.

**pronunciation** [prəˌnʌnsiˈeɪʃn] *n.* вымаўле́нне; *What's the correct pronunciation of this word?* Як правільна вымаўляецца гэтае слова?

**proof¹** [pruːf] *n.* **1.** до́каз, до́вад; *Do you have any proof that this man stole your bag?* У вас ёсць доказ, што гэты чалавек украў вашу сумку? **2.** праве́рка, выпрабава́нне; **put smth. to the proof** праве́рыць што-н. **3.** *tech.* карэкту́ра ♦ **the proof of the pudding is in the eating** не даве́даешся, паку́ль не паспрабу́еш; усё правяра́ецца на пра́ктыцы

**proof²** [pruːf] *adj.* **(against)** які́ абараня́е (*ад чаго-н.*); **proof against water** воданепраніка́льны

**proofreader** [ˈpruːfriːdə] *n.* карэ́ктар

**prop¹** [prɒp] *n.* **1.** падпо́рка; *Props were used to prevent the roof collapsing.* Каб дах не разбурыўся, пад яго падсунулі падпоркі. **2.** падтры́мка

**prop²** [prɒp] *v.* **1.** падпіра́ць **2. (against)** прыхіля́ць, прыхіна́ць (*да чаго-н.*)

**prop up** [ˌprɒpˈʌp] *phr.v.* падтры́мліваць

**prop³** [prɒp] *n.* бутафо́рыя, рэквізі́т

**propaganda** [ˌprɒpəˈgændə] *n.* прапага́нда

**propagate** [ˈprɒpəgeɪt] *v.* **1.** *fml* распаўсю́джваць **2.** размнажа́ць; размнажа́цца (*пра расліны або жывёл*)

**propel** [prəˈpel] *v.* прыво́дзіць у рух

**propensity** [prəˈpensəti] *n.* **(for)** схі́льнасць

**proper** [ˈprɒpə] *adj.* **1.** адпаве́дны, нале́жны, падыхо́дзячы; **in the proper way/order** нале́жным чы́нам; у нале́жным пара́дку; *I'm not sure that's a proper subject for a school debate.* Я не ўпэўнены, што гэтая тэма падыходзіць для школьнай дыскусіі. **2.** прысто́йны **3.** пра́вільны **4.** (*пасля назоўніка*) у ву́зкім значэ́нні, ва ўла́сным сэ́нсе; *Physics proper doesn't interest me.* Фізіка сама па сабе мяне не цікавіць.

**proper fraction** [ˌprɒpəˈfrækʃn] *n. math.* пра́вільны дроб

**properly** [ˈprɒpəli] *adv.* **1.** нале́жным чы́нам, пра́вільна **2.** ула́сна ка́жучы **3.** прысто́йна

**proper noun** [ˌprɒpəˈnaʊn] *n. ling.* (*таксама* **proper name**) ула́снае імя́

**property** [ˈprɒpəti] *n.* **1.** ула́снасць, маёмасць; **public/personal property** грама́дская/асабі́стая ўла́снасць **2.** нерухо́мая маёмасць (*дом, зямля*) **3.** уласці́васць, я́касць; **medical properties of plants** ле́кавыя я́касці раслі́н

**prophecy**[1] [ˈprɒfəsi] *n.* **1.** праро́цтва; прадказа́нне **2.** *fml* прадка́званне

**prophesy**[2] [ˈprɒfəsaɪ] *v.* праро́чыць; прадка́зваць

**proportion** [prəˈpɔːʃn] *n.* **1.** прапо́рцыя (*у розных знач.*) **2.** ча́стка, до́ля **3.** *math.* прапо́рцыя

**proposal** [prəˈpəʊzl] *n.* **1.** прапано́ва, план (*рабіць што-н.*); *Various proposals were examined and rejected.* Былі разгледжаны і адхілены многія прапановы. **2.** прапано́ва (*пра шлюб*); *She had received many proposals* (*of marriage*), *but preferred to remain single.* Ёй зрабілі шмат прапаноў, але яна палічыла за лепшае застацца адной.

**propose** [prəˈpəʊz] *v.* **1.** прапанава́ць, уно́сіць прапано́ву; **the proposed budget cuts** прапанава́ныя скарачэ́нні бюджэ́ту **2.** збіра́цца, наме́рвацца; меркава́ць **3.** **(to)** рабіць прапано́ву (*пра шлюб*)

**proposition** [ˌprɒpəˈzɪʃn] *n.* **1.** прапано́ва **2.** *fml* зая́ва, сцве́рджанне

**proprietor** [prəˈpraɪətə] *n. fml* ула́снік, ўлада́льнік; гаспада́р

**prose** [prəʊz] *n.* про́за; **Gilbert's clear, simple prose** зразуме́лая, про́стая про́за Гі́лберта

**prosecute** [ˈprɒsɪkjuːt] *v.* **1.** *law* узбуджа́ць спра́ву; выступа́ць у я́касці абвінава́ўцы; *He was prosecuted for theft.* Яго судзілі за крадзеж; **the prosecuting attorney** абвінава́ўца, праку́ро́р **2.** ве́сці; право́дзіць; займа́цца; **prosecute an inquiry** право́дзіць рассле́даванне

**prosecution** [ˌprɒsɪˈkjuːʃn] *n. law* **1.** судо́вае прасле́даванне **2.** **the prosecution** абвінава́чанне; **a witness for the prosecution** све́дка абвінава́чання

**prosecutor** [ˈprɒsɪkjuːtə] *n. law* абвінава́ўца

**prosody** [ˈprɒsədi] *n. ling.* прасо́дыя

**prospect**[1] [ˈprɒspekt] *n.* **(for, of)** перспекты́ва; надзе́я, спадзява́нне; меркава́нне, разлі́к; *What are the prospects for the harvest?* Які чакаецца ўраджай?

**prospect**[2] [prəˈspekt] *v.* **(for)** дасле́даваць; рабі́ць/ажыццяўля́ць по́шук; разве́дваць

**prospective** [prəˈspektɪv] *adj.* бу́дучы, магчы́мы; *I'm meeting a prospective buyer for the house today.* Сёння я сустракаюся з магчымым пакупніком дома.

**prosper** [ˈprɒspə] *v.* працвіта́ць, квітне́ць

**prosperity** [prɒˈsperəti] *n.* працвіта́нне, ро́сквіт

**prosperous** [ˈprɒspərəs] *adj.* працвіта́ючы, квітне́ючы, які́ знахо́дзіцца ў ста́не ро́сквіту

**prostrate**[1] [ˈprɒstreɪt] *adj. fml* **1.** распасцёрты **2.** перамо́жаны, адо́лены **3.** **(with)** знясі́лены, змо́раны; **prostrate with fear** скава́ны жа́хам; **prostrate with grief** злама́ны го́рам

**prostrate**[2] [prɒˈstreɪt] *v.* **1.** знясі́льваць, спусташа́ць, змо́рваць **2.** знемага́ць, знясі́льваць

**prostration** [prɒˈstreɪʃn] *n. fml* пastра́цыя; знямо́га, знясі́ленне

**protean** [ˈprəʊtiən, prəʊˈtiːən] *adj.* **1.** *lit.* разнаста́йны, зме́нлівы **2.** рознабако́вы, шматгра́нны

**protect** [prəˈtekt] *v.* **(against/from)** абараня́ць, ахо́ўваць; *I have to protect my reputation.* Мне прыходзіцца абараняць сваю рэпутацыю.

**protection** [prəˈtekʃn] *n.* **1.** **(for/of)** **(against/from)** абаро́на, ахо́ва; **consumer protection** абаро́на право́ў спажыўцо́ў; *They sell clothes that provide protection against the wind and rain.* Яны прадаюць адзенне, якое засцерагае ад ветру і дажджу. **2.** засту́пніцтва

**protectionism** [prəˈtekʃənɪzəm] *n.* пратэкцыяні́зм

**protective** [prəˈtektɪv] *adj.* **1.** засцерага́льны, ахо́ўны; **protective clothing** ахо́ўнае адзе́нне; **protective colouring** ахо́ўная афарбо́ўка **2.** **(of/towards)** засту́пніцкі, апяку́нскі **3.** *econ.* пратэкцыяні́сцкі; **protective tariffs** пратэкцыяні́сцкія тары́фы

**protector** [prəˈtektə] *n.* пратэ́ктар; абаро́нца, засту́пнік, ахо́ўнік

**protectorate** [prəˈtektərət] *n.* пратэктара́т; **a protectorate treaty** дагаво́р аб пратэктара́це

**protein** [ˈprəʊtiːn] *n.* бяло́к, пратэ́ін

**protest**[1] [ˈprəʊtest] *n.* **(against)** пратэ́ст; пярэ́чанне; **in protest** у знак пратэ́сту; **make protest** пратэстава́ць ♦ **under protest** вы́мушана, су́праць во́лі

**protest**[2] [prəˈtest] *v.* **1. (about/against/at)** пратэстава́ць; пярэ́чыць **2.** заяўля́ць, сцвярджа́ць, насто́йваць (*у адказ*)

**Protestant** [ˈprɒtɪstənt] *n. relig.* пратэста́нт; пратэста́нтка

**Protestant** [ˈprɒtɪstənt] *adj. relig.* пратэста́нцкі

**Protestantism** [ˈprɒtɪstəntɪzəm] *n. relig.* пратэстанты́зм, пратэста́нцтва

**protestation** [ˌprɒtəˈsteɪʃn] *n. fml* урачы́стая зая́ва; пратэ́ст

**protester** [prəˈtestə] *n.* асо́ба, яка́я выступа́е з пратэ́стам

**protocol** [ˈprəʊtəkɒl] *n.* **1.** пратако́л, пратако́льны за́піс; **draw up a protocol** склада́ць пратако́л **2.** *dipl.* пратако́л этыке́ту або́ паво́дзін у грама́дстве **3.** *comput.* пратако́л

**proton** [ˈpeəʊtɒn] *n. phys.* прато́н

**prototype** [ˈprəʊtətaɪp] *n.* **1. (for/of)** прататы́п (*чаго-н.*); **the prototype of the modern motorcycle** прататы́п сучаснага матацы́кла **2.** (*доследны*) узо́р; мадэ́ль

**protrude** [prəˈtruːd] *v. fml* **(from) 1.** высо́ўваць; высо́ўвацца **2.** вытырка́ць; вытырка́цца; выдава́цца

**protrusion** [prəˈtruːʒn] *n. fml* **1.** высо́ўванне, выпукле́нне **2.** вы́ступ

**proud** [praʊd] *adj.* **1.** го́рды; **be proud of smb./smth.** ганары́цца кім-н./чым-н. **2.** ганарлі́вы

**proudly** [ˈpraʊdli] *adv.* **1.** ганарлі́ва; го́рда

**prove** [pruːv] *v.* **(proved, proved** *or* **proven) 1.** дака́зваць, даво́дзіць; *They said I wouldn't succeed, but I proved them wrong.* Яны сцвярджалі, што я не даб'юся поспехаў, але я даказаў, што яны памыляліся. **2.** выпрабо́ўваць, правяра́ць **3.** ака́звацца, праяўля́цца

**proven** [pruːvn] *p.p.* → **prove**

**proverb** [ˈprɒvɜːb] *n.* пры́казка

**provide** [prəˈvaɪd] *v.* **1. (with)** забяспе́чваць (*чым-н.*); *I am provided with everything I need.* У мяне ёсць усё неабходнае. **2. : provide against smth.** *fml* прыма́ць ме́ры су́праць чаго́-н. **3. (for)** забяспе́чваць (*каго-н.*); **provide for one's family** *fml* забяспе́чваць сям'ю́

**provided** [prəˈvaɪdɪd] *conj.* пры ўмо́ве, што; як то́лькі; у тым выпа́дку, калі́

**providence** [ˈprɒvɪdəns] *n.* **1.** прадба́члівасць **2. Providence** *relig.* вышэ́йшая (бо́ская) во́ля; Бог

**provident** [ˈprɒvɪdənt] *adj. fml* **1.** прадба́члівы, аба́члівы **2.** ашча́дны

**provider** [prəˈvaɪdə] *n.* **1.** пастаўшчы́к **2.** *infml* кармі́цель; кармі́целька (*у сям'і*)

**providing** [prəˈvaɪdɪŋ] *conj.* = **provided**

**province** [ˈprɒvɪns] *n.* **1.** край, во́бласць **2.** *pl.* **the provinces** праві́нцыя, перыферы́я **3.** *fml* сфе́ра дзе́йнасці; кампетэ́нцыя

**provincial**[1] [prəˈvɪnʃl] *n.* правінцыя́л; правінцыя́лка

**provincial**[2] [prəˈvɪnʃl] *adj.* **1.** правінцыя́льны **2.** мясцо́вы; **provincial elections** мясцо́выя вы́бары **3.** праставаты; абмежава́ны

**provision**[1] [prəˈvɪʒn] *n.* **1.** забеспячэ́нне; **make provision for the future** забяспе́чыць бу́дучае **2.** *pl.* **provisions** праві́зія **3.** палажэ́нне, умо́ва (*пра дакументы*)

**provision**[2] [prəˈvɪʒn] *v. fml* забяспе́чваць (*каго-н. чым-н.*)

**provisional** [prəˈvɪʒənl] *adj.* **1.** часо́вы; **a provisional government** часо́вы ўра́д; **provisional arrangements** часо́выя мерапрые́мствы **2.** папярэ́дні; умо́ўны

**provocation** [ˌprɒvəˈkeɪʃn] *n.* **1.** падахво́чванне; вы́клік; падбухто́рванне **2.** правака́цыя

**provocative** [prəˈvɒkətɪv] *adj.* правакацы́йны

**provoke** [prəˈvəʊk] *v.* **1.** правакава́ць **2.** раздражня́ць

**prowess** [ˈpraʊəs] *n.* **1.** до́блесць **2.** майстэ́рства

**proximity** [prɒkˈsɪməti] *n. fml* блі́зкасць

**prudent** [ˈpruːdnt] *adj.* разва́жлівы; прадба́члівы

**prune**[1] [pruːn] *n.* чарнаслі́ў

**prune**[2] [pruːn] *v.* **1.** абраза́ць, падраза́ць галі́ны **2.** спрашча́ць

**pry** [praɪ] *v.* **1.** падгляда́ць, падгля́дваць **2.** уме́швацца

**PS** [ˌpiːˈes] (*скар. ад* **postscript**) пастскры́птум; *She added a PS asking me to send her some money.* У пастскрыптуме яна папрасіла мяне прыслаць ёй грошай.

**psalm** [sɑːm] *n.* псало́м; **the Book of Psalms** *bibl.* псалты́р

**psalter** [ˈsɔːltə] *n.* псалты́р

**pseudonym** [ˈsuːdənɪm] *n.* псеўдані́м; *She writes under a pseudonym.* Яна піша пад псеўданімам.

**psyche** [ˈsaɪki] *n.* псі́хіка; дух, душа́

**psychiatric** [ˌsaɪkiˈætrɪk] *adj.* псіхіятры́чны; **a psychiatric clinic** псіхіятры́чная клі́ніка

**psychiatrist** [saɪˈkaɪətrɪst] *n.* псіхія́тр

**psychiatry** [saɪˈkaɪətri] *n.* псіхіятры́я

**psychic**[1] [ˈsaɪkɪk] *n.* экстрасэ́нс

**psychic**[2] [ˈsaɪkɪk] *adj.* **1.** псіхі́чны, духо́ўны **2.** звышнатура́льны

**psychoanalysis** [ˌsaɪkəʊəˈnæləsɪs] *n.* псіхааналі́з

**psychoanalyst** [ˌsaɪkəʊˈænəlɪst] *n.* псіхааналі́тык

**psychological** [ˌsaɪkəˈlɒdʒɪkl] *adj.* псіхалагі́чны ♦ **the psychological moment** раша́ючы, кры́тычны мо́мант

**psychologist** [saɪˈkɒlədʒɪst] *n.* псіхóлаг; **a child psychologist** дзіця́чы псіхóлаг

**psychology** [saɪˈkɒlədʒi] *n.* псіхалóгія; **social/child psychology** сацыя́льная/дзіця́чая псіхалóгія; **the psychology of teenagers** псіхалóгія падлéткаў

**psychotherapy** [ˌsaɪkəʊˈθerəpi] *n.* псіхатэрапíя

**PT** [ˌpiːˈtiː] *BrE* (*скар. ад* **physical training**) фізí чная падрыхтóўка; **PT lessons at school** заня́ткі па фізí чным выхавáнні ў шкóле

**pt** *пісьмовае скар. ад* **: 1. part** чáстка **2. pint** пíнта **3. point** ачкó

**PTO** [ˌpiːtiːˈəʊ] *BrE* (*скар. ад* **please turn over)** перагарнíце старóнку

**pub** [pʌb] *n. BrE* паб, піўня́я; *Do you fancy going to the pub?* Як наконт таго, каб пайсці ў паб?

**public**[1] [ˈpʌblɪk] *n.* **1.** грамáдскасць; нарóд **2.** пýбліка ♦ **in public** публí чна, адкры́та

**public**[2] [ˈpʌblɪk] *adj.* **1.** грамáдскі; нарóдны; **public opinion** грамáдская дýмка; **public property** грамáдская ўлáснасць **2.** грамáдскі, камунáльны, грамáдскага карыстáння; **public transport** грамáдскі трáнспарт; **public service** камунáльнае абслугóўванне **3.** дзяржáўны, нацыянáльны; **public prosecutor** дзяржáўны абвінавáўца; **a public officer** дзяржáўны слýжачы; **4.** публí чны, дастýпны; **a public lecture** публí чная лéкцыя

**publication** [ˌpʌblɪˈkeɪʃn] *n.* публікáцыя (*у розных знач.*); *The book is ready for publication.* Кніга падрыхтавана да выдання.

**public house** [ˌpʌblɪkˈhaʊs] *n. BrE, fml* паб, піўня́я

**publicity** [pʌbˈlɪsəti] *n.* **1.** публí чнасць, галóснасць; *The case has received massive publicity.* Справа атрымала шырокую галоснасць. **2.** шырóкая вядóмасць; папуля́рнасць **3.** рэклáма, рэкламавáнне; *There has been a lot of publicity for her new film lately.* Яе новы фільм многа рэкламуецца апошнім часам.

**publicize,** *BrE* **-ise** [ˈpʌblɪsaɪz] *n.* рэкламавáць; апавяшчáць, абвяшчáць

**publicly** [ˈpʌblɪkli] *adv.* публí чна, адкры́та

**public relations** [ˌpʌblɪkrɪˈleɪʃnz] *n.* **1.** сýвязі з грамáдскасцю **2.** аддзéл інфармáцыі; *She works in public relations*. Яна працуе ў аддзеле інфармацыі; **a leading PR agency in the city** галóўнае інфармáцыйнае агéнцтва ў гóрадзе

**public school** [ˌpʌblɪkˈskuːl] *n.* **1.** *BrE* прывілеявáная прывáтная сярэ́дняя шкóла-інтэрнáт (*у Англіі*) **2.** бясплáтная пачаткóвая шкóла (*у ЗША, Аўстраліі, Шатландыі і іншых краінах*)

**publish** [ˈpʌblɪʃ] *v.* **1.** публікавáць, выдавáць; *The journal is published monthly*. Часопіс выходзіць кожны месяц. **2.** змяшчáць **3.** *fml* афіцы́йна аб'яўля́ць

**publisher** [ˈpʌblɪʃə] *n.* выдавéц; выдавéцкая фíрма

**publishing** [ˈpʌblɪʃɪŋ] *n.* выдавéцкая спрáва; выдáнне; **a publishing house** выдавéцтва

**puck** [pʌk] *n. sport* шáйба

**pudding** [ˈpʊdɪŋ] *n.* **1.** пýдынг; запякáнка **2.** пірóг; **Yorkshire pudding** пірóг з мя́сам; **black pudding** крывяня́я каўбасá

**puddle** [ˈpʌdl] *n.* лýжа, лýжына

**puff**[1] [pʌf] *n.* **1.** вы́дых **2.** заця́жка (*пры курэнні*) **3.** струмéнь павéтра **4.** клуб (ды́му)

**puff**[2] [pʌf] *v.* **1. (at/on)** палíць цыгарэ́ту/лю́льку **2. (out)** пускáць клубы́ ды́му/пáры **3.** *infml* пыхцéць, дымíць; ця́жка ды́хаць

**pull**[1] [pʊl] *n.* **1.** ця́га; тýзанне; *He gave a pull on the rope.* Ён пацягнуў за вяроўку. **2.** напрýжанне, намагáнне

**pull**[2] [pʊl] *v.* **1.** цягнýць; валачы́; тýзаць; тóргаць; **pull the curtains** зашмóргваць абó адшмóргваць фірáнкі; **pull smth. to pieces** разбірáць абó разрывáць што-н. на чáсткі; **"pull"** «на сябé» (*надпіс на дзвярах*) **2.** выця́гваць; выдзірáць, вырывáць; **pull a tooth** вырывáць зуб ♦ **pull a face** грымáснічаць; **pull smb.'s leg** *infml* увóдзіць у зман, ашýкваць; ≅ вадзíць кагó-н. за нос; **pull oneself together** узя́ць сябé ў рýкі

**pull ahead** [ˌpʊləˈhed] *phr.v.* выбівáцца ў лíдары

**pull away** [ˌpʊləˈweɪ] *phr.v.* **(from)** ад'язджáць, адпраўля́цца (*пра транспарт*)

**pull down** [ˌpʊlˈdaʊn] *phr.v.* **1.** апускáць, сця́гваць унíз **2.** знóсіць (*пра будынак*)

**pull in** [ˌpʊlˈɪn] *phr.v.* прыбы́ць на стáнцыю (*пра цягнік*)

**pull off** [ˌpʊlˈɒf] *phr.v.* **1.** *infml* паспяхóва завяршáць **2.** сця́гваць **3.** з'язджáць на абóчыну (*пра транспарт*)

**pull out** [ˌpʊlˈaʊt] *phr.v.* **1.** выця́гваць; вывóдзіць **2.** кранáцца, адыхóдзіць, ад'язджáць (*пра транспарт*)

**pull through** [ˌpʊlˈθruː] *phr.v.* **1.** папрáвіцца, ачуня́ць **2.** пераадóлець ця́жкасці **3.** вы́ратаваць

**pull up** [ˌpʊlˈʌp] *phr.v.* **1.** спыня́ць; спыня́цца (*пра транспартны сродак*) **2. : pull smb. up** *BrE, infml* адчы́тваць кагó-н., рабíць заўвáгу абó вымóву **3.** выця́гваць, вырывáць (*расліну з коранем*)

**pullover** [ˈpʊləʊvə] *n.* пулóвер, свíтар

**pulp¹** [pʌlp] *n.* **1.** мя́каць; мязга́; **tomato pulp** мя́каць памідо́ра **2.** драўня́ная ма́са, цэлюло́за ♦ **beat smb. to a pulp** збіць каго́-н. да паўсмя́рці

**pulp²** [pʌlp] *v.* драбі́ць, крышы́ць; праціра́ць;ператвара́ць у мя́ккую ма́су

**pulsate** [pʌlˈseɪt] *v.* **1.** пульсава́ць, бі́цца **2.** вібры́раваць, дрыжа́ць, трапята́ць

**pulse¹** [pʌls] *n.* **1.** пульс; **feel/take smb.'s pulse** ма́цаць чый-н. пульс; *I checked his pulse – he was still alive*. Я памацаў яго пульс – ён быў яшчэ жывы. **2.** пульсава́нне **3.** *mus.* рытм

**pulse²** [pʌls] *v.* **1.** пульсава́ць; бі́цца **2.** вібры́раваць, трапята́ць

**puma** [ˈpjuːmə] *n. zool.* пу́ма

**pummelo** [ˈpʌmələʊ] = **pomelo**

**pump¹** [pʌmp] *n.* **1.** по́мпа **2.** напампо́ўванне; выпампо́ўванне

**pump²** [pʌmp] *v.* **1.** пампава́ць, напампо́ўваць; выпампо́ўваць; **pump water from a well** вы́пампаваць ваду́ з кало́дзежа **2. : pump smb. (for smth.)** *infml* выпы́тваць у каго́-н. (*інфармацыю*)

**pumpkin** [ˈpʌmpkɪn] *n.* гарбу́з; **pumpkin pie** піро́г з гарбузо́м

**pun¹** [pʌn] *n.* **(on)** каламбу́р, гульня́ слоў

**pun²** [pʌn] *v.* каламбу́рыць, забаўля́цца сло́вамі

**punch¹** [pʌntʃ] *n.* **1.** уда́р кулако́м **2.** энэ́ргія (*перан.*) **3.** кампо́сцер **4.** пунш; **a glass of punch** шкля́нка пу́ншу

**punch²** [pʌntʃ] *v.* **1.** удары́ць кулако́м **2.** прабіва́ць; **punch a ticket** пракампасці́раваць біле́т

**punctual** [ˈpʌŋktʃuəl] *adj.* пунктуа́льны; *She's always very punctual for appointments*. Яна заўсёды прыходзіць на спатканне ў час.

**punctuation** [ˌpʌŋktʃuˈeɪʃn] *n. ling.* пунктуа́цыя

**punctuation mark** [ˌpʌŋktʃuˈeɪʃnˌmɑːk] *n. ling.* знак прыпы́нку

**puncture¹** [ˈpʌŋktʃə] *n.* **1.** *BrE* прако́л (*асабліва шыны*) **2.** уко́л, прако́л; пу́нкцыя

**puncture²** [ˈpʌŋktʃə] *v.* **1.** прако́лваць; прабіва́ць дзі́рку **2.** атрыма́ць прако́л; *The tyre punctured*. Шына лопнула.

**pundit** [ˈpʌndɪt] *n.* знато́к, спецыялі́ст

**pungent** [ˈpʌndʒənt] *adj.* **1.** во́стры, піка́нтны (*пра пах, смак*) **2.** з'е́длівы, во́стры (*пра крытыку*)

**punish** [ˈpʌnɪʃ] *v.* **(for, with)** кара́ць; *She was punished with ten years in prison*. Яе прыгаварылі да дзесяці год турэмнага зняволення.

**punishment** [ˈpʌnɪʃmənt] *n.* **(for)** ка́ра, пакара́нне; **corporal punishment** цяле́снае пакара́нне; **capital punishment** смяро́тная ка́ра, пакара́нне сме́рцю

**punitive** [ˈpjuːnətɪv] *adj. fml* ка́рны; **punitive measures** ме́ры пакара́ння

**punk** [pʌŋk] *n.* панк; **a punk band** панк-гу́рт, панк-гру́па

**pup** [pʌp] *n.* шчаня́, шчанё, шчаню́к (*таксама перан.*); **a spaniel pup** шчаня́ спаніэ́ля; *Don't threaten me, you pup!* Не пагражай мне, шчанюк! ♦ **sell smb. a pup** *BrE, infml*, *dated* ашука́ць каго́-н. пры про́дажы; **buy a pup** *BrE, infml*, *dated* быць ашука́ным пры ку́плі

**pupil** [ˈpjuːpl] *n.* **1.** ву́чань; *This school has about 500 pupils*. У гэтай школе налічваецца амаль 500 вучняў. **2.** зрэ́нка

**puppet** [ˈpʌpɪt] *n.* **1.** ля́лька; **a glove puppet** ля́лька-марыяне́тка; **a puppet theatre** ля́лечны тэа́тр **2.** марыяне́тка; **a puppet government** марыяне́тачны ўра́д

**puppeteer** [ˌpʌpɪˈtɪə] *n.* ля́лечнік

**puppy** [ˈpʌpi] *n.* шчаня́, шчанё, шчаню́к

**purchase¹** [ˈpɜːtʃəs] *n. fml* **1.** ку́пля; купля́нне; **make a purchase** купля́ць **2.** паку́пка; *He laid his purchases out on the table*. Ён павыкладваў пакупкі на стол. **3.** *tech.* рыча́г

**purchase²** [ˈpɜːtʃəs] *v. fml* **1.** купля́ць; набыва́ць; **purchase smth. from smb.** купля́ць што-н. у каго́-н.

**purchase price** [ˈpɜːtʃəsˌpraɪs] *n. fml* пакупна́я цана́

**purchaser** [ˈpɜːtʃəsə] *n. fml* пакупні́к; пакупні́ца

**purchase tax** [ˈpɜːtʃəstæks] *n.* пада́так на паку́пку

**purchasing power** [ˈpɜːʒtʃəsɪŋˌpaʊə] *n.* пакупна́я здо́льнасць

**pure** [ˈpjʊə] *adj.* **1.** чы́сты (*у розных знач.*); **pure wool** чы́стая шэрсць; **pure science** чы́стая наву́ка; **pure in mind and body** чы́сты душо́ю і це́лам **2.** абсалю́тны; **pure nonsense** чы́стая лухта́; **by pure chance** то́лькі выпадко́ва, абсалю́тна выпадко́ва ♦ **pure and simple** ні больш ні менш; не што і́ншае, як; про́ста ка́жучы

**puree** [ˈpjʊəreɪ] *n.* пюрэ́

**purely** [ˈpjʊəli] *adv.* чы́ста; то́лькі, про́ста, выклю́чна

**purge¹** [pɜːdʒ] *n.* **1.** ачышчэ́нне, ачы́стка **2.** рэпрэ́сія

**purge²** [pɜːdʒ] *v.* ачышча́ць, чы́сціць; *The party was purged of the extremists*. Партыю ачысцілі ад экстрэмістаў.

**purify** [ˈpjʊərɪfaɪ] *v.* ачышча́ць (*у розных знач.*); **purify water** ачышча́ць ваду́

**purity** [ˈpjʊərəti] *n.* чысціня́

**purple** [ˈpɜːpl] *adj.* **1.** ліло́вы, фіяле́тавы; **a purple dress/flower** фіяле́тавая суке́нка/кве́тка **2.** пурпуро́вы, пурпу́рны, барвяны́, барво́вы;

*His face went purple with rage.* Яго твар стаў барвовым ад гневу.

**purpose** [ˈpɜːpəs] *n.* **1.** мэ́та, намéр; заду́ма; **answer/serve the purpose** адпавяда́ць патрабава́нням **2.** мэтанакірава́насць; **a man of purpose** мэтанакірава́ны чалавéк ♦ **on purpose** знаро́к, наўмы́сна; **to little/no purpose** *fml* (ама́ль) безвынікóва

**purposeful** [ˈpɜːpəsfəl] *adj.* мэтанакірава́ны; *Young people's energies should be directed towards more purposeful activities.* Энергія маладых людзей павінна быць накіравана на больш карысную дзейнасць.

**purposeless** [ˈpɜːpəsləs] *adj.* бязмэ́тны; **a purposeless existence** бязмэ́тнае існава́нне

**purposely** [ˈpɜːpəsli] *adv.* знаро́к, наўмы́сна

**purr** [pɜː] *v.* **1.** му́ркаць, мурлы́каць **2.** буркава́ць, бурката́ць

**purse¹** [pɜːs] *n.* **1.** кашалёк; *She took a coin out of her purse.* Яна дастала манету з кашалька. **2.** *AmE* да́мская су́мачка **3.** гро́шы

**purse²** [pɜːs] *v.* мо́ршчыць, збіра́ць у скла́дкі; **purse one's lips** сціска́ць гу́бы

**pursue** [pəˈsjuː] *v. fml* **1.** праслéдаваць, гна́цца (*таксама перан.*); *She was pursued by photographers everywhere she went.* Яе ўсюды праследавалі фатографы. **2.** праця́гваць рабíць; займа́цца; **pursue a policy** право́дзіць палі́тыку; **pursue an enquiry** вéсці расслéдаванне

**pursuer** [pəˈsjuːə] *n.* праслéдавацель

**pursuit** [pəˈsjuːt] *n.* **1.** праслéдаванне, паго́ня **2.** по́шукі; **in pursuit of pleasures** у по́шуках заба́ў **3.** заня́так; **outdoor pursuits** заня́ткі на во́льным павéтры; *Hunting is his favourite pursuit.* Паляванне – яго любімы занятак.

**push¹** [pʊʃ] *n.* штуршо́к; **give smb. a push** штурхну́ць каго́-н.; *He gave me a violent push in the back.* Ён моцна штурхнуў мяне ў спіну. ♦ **at a push** *BrE, infml* калі́ пашанцу́е, калі́ ўсё по́йдзе до́бра

**push²** [pʊʃ] *v.* **1.** шту́рхаць; шту́рхацца; **"push"** «ад сябé» (*надпіс на дзвярах*) **2.** праштурхо́ўваць; прашту́рхвацца; **push one's way** пракла́дваць даро́гу **3.** націска́ць **4.** прымуша́ць, насто́йваць; **push smb. into smth./into doing smth.** прымуша́ць каго́-н. рабíць што-н.; *They are pushing him for payment.* Яны настойваюць, каб ён заплаціў. ♦ **be pushing 50** *infml* ху́тка спо́ўніцца 50 гадоў

**push about** [ˌpʊʃəˈbaʊt] *phr.v.* трэці́раваць, запало́хваць (*каго-н.*)

**push around** [ˌpʊʃəˈraʊnd] *phr.v.* = **push about**

**push forward** [ˌpʊʃˈfɔːwəd] *phr.v.* ру́хацца/ імкну́цца напéрад

**push in** [ˌpʊʃˈɪn] *phr.v. BrE* прала́зіць; праціска́цца

**push off** [ˌpʊʃˈɒf] *phr.v.* адпі́хваць, адштурхо́ўваць; адштурхо́ўвацца; **push off!** *BrE, infml* выбіра́йся, змыва́йся!

**push on** [ˌpʊʃˈɒn] *phr.v.* ру́хацца напéрад

**push out** [ˌpʊʃˈaʊt] *phr.v.* **1.** звальня́ць; выганя́ць **2.** выраблья́ць (*у вялікай колькасці*)

**push-button** [ˈpʊʃˌbʌtn] *n.* кно́пка (*званка, тэлефона і да т.п.*)

**pushchair** [ˈpʊʃtʃeə] *n.* дзіця́чая прагу́лачная каля́ска

**pusher** [ˈpʊʃə] *n. infml* наркагандля́р; **drug pushers** гандляры́ нарко́тыкамі

**pushpin** [ˈpʊʃpɪn] *n.* канцыля́рская кно́пка

**pushy** [ˈpʊʃi] *adj. infml* **1.** наха́бны, надаку́члівы; бесцырымо́нны **2.** напо́рысты, прабіўны́

**put** [pʊt] *v.* **(put) 1.** кла́сці; ста́віць; змяшча́ць; **put the children to bed** кла́сці дзяцéй спаць; **put smb. in prison** пасадзі́ць каго́-н. у турму́; **put an end to smth.** пакла́сці канéц чаму́-н. **2.** запі́сваць; выка́зваць, фармулява́ць; **put smth. in paper/in writing** выклада́ць што-н. на папéры/у пісьмо́вай фо́рме ♦ **put the blame on smb.** звалі́ць ві́ну на каго́-н.; **put smth. right** вы́правіць што-н.

**put about** [ˌpʊtəˈbaʊt] *phr.v. BrE, infml* распаўсю́джваць, рабíць шырокавядо́мым

**put across** [ˌpʊtəˈkrɒs] *phr.v.* растлума́чыць; павéдаміць

**put aside** [ˌpʊtəˈsaɪd] *phr.v.* адкла́дваць (*убок*); збіра́ць (запа́сіць) гро́шы

**put away** [ˌpʊtəˈweɪ] *phr.v.* **1.** прыма́ць, хава́ць **2.** адклада́ць гро́шы **3.** *infml* садзі́ць у турму́

**put back** [ˌpʊtˈbæk] *phr.v.* **1.** пакла́сці на мéсца **2.** затры́млі ваць **3.** перавó дзіць стрэ́лкі гадзі́нніка наза́д **4.** адкла́дваць (*пра сустрэчу, пасяджэнне*)

**put down** [ˌpʊtˈdaʊn] *phr.v.* **1.** кла́сці, ста́віць **2.** запі́сваць **3. : put smb. down** зневажа́ць каго́-н.

**put forward** [ˌpʊtˈfɔːwəd] *phr.v.* **1.** перавó дзіць стрэ́лкі гадзі́нніка ўпéрад **2.** унóсіць (*прапанову*), прапано́ўваць

**put in** [ˌpʊtˈɪn] *phr.v.* перабіва́ць, перапыня́ць; умéшвацца ў размо́ву

**put off** [ˌpʊtˈɒf] *phr.v.* **1.** адкла́дваць, перано́сіць **2.** выклі́каць непрыéмнае пачуццё

**put on** [ˌpʊtˈɒn] *phr.v.* **1.** надзява́ць, апрана́ць **2.** уключа́ць (*святло, тэлевізар і да т.п.*) **3.** павялі́чваць **4.** ста́віць, арганізо́ўваць (*п'есу, выставу і да т.п.*)

**put out** [ˌpʊtˈaʊt] *phr.v.* **1.** выстаўля́ць, вывéшваць **2.** выпуска́ць **3.** тушы́ць, гасі́ць

**put through** [ˌpʊtˈθruː] *phr.v.* злучáць (*па тэлефоне*)
**put together** [ˌpʊttəˈgeðə] *phr.v.* злучáць; састаўля́ць, збірáць
**put up** [ˌpʊtˈʌp] *phr.v.* **1.** падымáць **2. (for)** стáвіць, выстаўля́ць (*на продаж*) **3.** будавáць **4.** спыня́цца (*у гатэлі, матэлі і да т.п.*) **5.** прымíрыцца; **put up with smth**. цярпéць што-н., мíрыцца з чым-н. **6.** вылучáць кандыдатýру
**put-down** [ˈpʊtdaʊn] *n. infml* абрáза, знявáга
**putrefaction** [ˌpjuːtrɪˈfækʃn] *n. fml* гніéнне; гнíласць
**putrefy** [ˈpjuːtrɪfaɪ] *v. fml* гнíсці, гніць
**putrid** [ˈpjuːtrɪd] *adj.* **1.** гнілы́, гнíласны **2.** *infml* агíдны; **putrid weather** агíднае надвóр'е
**putsch** [pʊtʃ] *n.* путч
**puzzle**[1] [ˈpʌzl] *n.* **1.** пазл, загáдка, галавалóмка; **a crossword puzzle** крыжавáнка, красвóрд **2.** ця́жкае пытáнне, праблéма; задáча
**puzzle**[2] [ˈpʌzl] *v.* азадáчваць; збянтэ́жваць; **puzzle about/over smth.** ламáць галавý над чым-н.
**puzzle out** [ˌpʌzlˈaʊt] *phr.v.* разгадáць
**puzzlement** [ˈpʌzlmənt] *n. fml* збянтэ́жанасць
**puzzler** [ˈpʌzlə] *n. infml* ця́жкае пытáнне, ця́жкая задáча
**pygmy**[1] [ˈpɪgmi] *n.* пігмéй; кáрлік
**pygmy**[2] [ˈpɪgmi] *adj*. кáрлікавы
**pyjamas** [pəˈdʒɑːməz] *n.* піжáма; *He was wearing striped pyjamas.* На ім была піжама ў палоску.
**pylon** [ˈpaɪlən] *n.* **1.** *archit*. пілóн, апóра **2.** слуп; мáчта
**pyramid** [ˈpɪrəmɪd] *n.* пірамíда (*у розных знач.*); **the Pyramids** егíпецкія пірамíды
**pyromania** [ˌpaɪrəʊˈmeɪniə] *n.* пірамáнія, ця́га да падпáлу
**pyromaniac** [ˌpaɪrəʊˈmeɪniæk] *n.* піраманья́к, пірамáн
**pyrotechnics** [ˌpaɪrəˈteknɪks] *n. tech*. піратэ́хніка
**Pyrrhic victory** [ˌpɪrɪkˈvɪktəri] *n.* пíрава перамóга
**Pythagoras' theorem** [paɪˌθægərəsɪzˈθɪərəm] *n. math*. тэарэ́ма Піфагóра
**python** [ˈpaɪθən] *n. zool.* пітóн

# Qq

**Q q** [kjuː] *n. 17-я літара англійскага алфавіта*
**Q, q.** (*пісьмовае скар. ад* **question**) пытáнне
**QC** [ˌkjuːˈsiː] (*пісьмовае скар. ад* **Queen's Counsel**) каралéўскі адвакáт
**quack**[1] [kwæk] *n.* крáканне (*качак*)
**quack**[2] [kwæk] *v.* кáркаць; крáкаць (*пра птушку*)
**quack**[3] [kwæk] *n. infml* знахáр, шарлатáн; **a quack doctor** дóктар-шарлатáн
**quackery** [ˈkwækəri] *n.* шарлатáнства
**quad** [kwɒd] *n.* вучэ́бны пляц
**quadrangle** [ˈkwɒdræŋgl] *n.* **1.** *math.* чатырохвугóльнік, чатырохкýтнік **2.** чатырохвугóльны/чатырохкýтны двор абó пляц, акрýжаны дамáмі
**quadrangular** [kwɒˈdræŋgjələ] *adj.* чатырохкýтны, чатырохвугóльны
**quadrant** [ˈkwɒdrənt] *n.* **1.** *math.* квадрáнт (*чвэрць круга, шара, акружнасці*) **2.** *tech.* сéктар
**quadrantal** [kwɒˈdræntl] *adj. math.* чацвярны́; квадрáнтны
**quadraphonic** [ˌkwɒdrəˈfɒnɪk] *adj.* (*таксама* **quadrophonic**) квадрафанíчны (*пра гуказапіс і гукаўзнаўленне*)
**quadratic** [kwɒˈdrætɪk] *adj. math.* квадрáтны
**quadrilateral**[1] [ˌkwɒdrɪˈlætərəl] *n. math.* чатырохвугóльнік, чатырохкýтнік
**quadrilateral**[2] [ˌkwɒdrɪˈlætərəl] *adj.* чатырохбакóвы
**quadrille** [kwəˈdrɪl] *n.* кадры́ля (*танец*)
**quadruped** [ˈkwɒdruped] *n. zool.* чатырохнóгая жывёліна (*асабліва млекакормячая*)
**quadruple**[1] [ˈkwɒdrʊpl] *n.* чатырохкрáтны памéр
**quadruple**[2] [ˈkwɒdrʊpl] *adj.* **1.** чацвярны́, з чатырóх частак; чатырохкрáтны **2.** у чаты́ры разы́ бóльшы; чатырохразóвы
**quadruple**[3] [kwɒˈdruːpl] *v.* павялíчваць у чаты́ры разы́; павялíчвацца ў чаты́ры разы́
**quadruplet** [ˈkwɒdrʊplət, kwɒˈdruːplət] *n.* адзíн з чатырóх блізня́т
**quadruplicate** [kwɒˈdruːplɪkət] *n.* адзíн з чатырóх аднóлькавых экзэмпля́раў (*асабліва пра дакументы*); **in quadruplicate** у чатырóх экзэмпля́рах
**quaff** [kwɒf] *v. dated or lit.* **1.** піць вялíкімі глыткáмі; піць зáлпам **2.** выпівáць (*бакал, чарку*)
**quaffer** [ˈkwɒfə] *n.* п'я́ніца
**quagga** [ˈkwægə] *n. zool.* квáга
**quaggy** [ˈkwægi] *adj.* дрыгвяны́, дрыгвянíсты, багнíсты, твáністы
**quagmire** [ˈkwægmaɪə,ˈkwɒgmaɪə] *n.* **1.** балóта, дрыгвá, бáгна **2.** ця́жкае абó небяспéчнае станóвішча
**quail**[1] [kweɪl] *n. zool.* (*pl.* **quails** *or* **quail**) **1.** перапёлка **2.** курапáтка **3.** мя́са перапёлкі; мя́са курапáткі
**quail**[2] [kweɪl] *v. lit.* **1.** здрыганýцца; задрыжэ́ць **2.** спалóхацца; бая́цца; жахáцца; **quail at/before smb./smth.** бая́цца кагó-н. абó чагó-н.

**quaint** [kweɪnt] *adj.* **1.** вы́чварны, мудраге́лісты; старамо́дны; **one of those quaint British traditions** адна́ з тых старамо́дных брыта́нскіх трады́цый **2.** дзі́ўны, дзіва́цкі, незвыча́йны; **quaint Japanese customs** дзі́ўныя япо́нскія звы́чаі; **a man of quaint humour** дзіва́к, эксцэнтры́чны чалаве́к

**quake**[1] [kweɪk] *n.* **1.** дрыжа́нне; трымце́нне; трапята́нне; уздры́г **2.** *infml* землетрасе́нне, землятру́с

**quake**[2] [kweɪk] *v.* дрыжа́ць; трэ́сціся; калаці́цца; **quake with fear/with cold** дрыжа́ць ад стра́ху/ад хо́ладу; *The explosion made the whole building quake.* Ад выбуху здрыгануўся ўвесь будынак.

**Quaker** [ˈkweɪkə] *n. relig.* ква́кер

**Quakerish** [ˈkweɪkərɪʃ] *adj. hist.* ква́керскі

**quaking** [ˈkweɪkɪŋ] *adj.* дрыжа́чы

**quaky** [ˈkweɪki] *adj.* хі́сткі, няўпэ́ўнены, няўсто́йлівы

**qualification** [ˌkwɒlɪfɪˈkeɪʃn] *n.* **1.** кваліфіка́цыя; падрыхтава́насць, прыго́днасць (*да чаго-н.*); во́пыт рабо́ты; *Eva has excellent academic qualifications, but no work experience.* Ева мае добрую акадэмічную падрыхтоўку, але не мае вопыту работы. **2.** дыпло́м; атэста́т; пасве́дчанне; ступе́нь; **a medical qualification** медыцы́нскі дыпло́м

**qualified** [ˈkwɒlɪfaɪd] *adj.* **1.** кваліфікава́ны, кампетэ́нтны, дасве́дчаны; які́ ма́е дыпло́м, атэста́т; **a fully qualified doctor** кампетэ́нтны ўрач; **a qualified engineer** высокакваліфікава́ны інжыне́р **2.** **(for)** прыго́дны (*для чаго-н.*); **qualified for a post** прыго́дны для паса́ды **3.** абмежава́ны, зро́блены з агаво́ркай; **take a word in a qualified sense** ужыць сло́ва ў ву́зкім сэ́нсе

**qualifier** [ˈkwɒlɪfaɪə] *n. ling.* вызнача́льнік; спецыфіка́тар

**qualify** [ˈkwɒlɪfaɪ] *v.* **1.** рыхтава́ць (*каго-н.*) да яко́й-н. мэ́ты; рабі́ць адпаве́дным, падрыхто́ўваць; кваліфікава́ць; **qualify oneself for a post/job** рыхтава́цца да яко́й-н. паса́ды/пра́цы **2.** стаць спецыялі́стам у яко́й-н. галіне́ **3.** атры́млiваць дыпло́м, атэста́т, пасве́дчанне; *He qualified in London to teach English.* Ён атрымаў дыплом выкладчыка англійскай мовы ў Лондане. **4.** быць кампетэ́нтным; *I am not qualified to judge.* Не мне судзіць. **5.** *ling.* азнача́ць

**qualifying** [ˈkwɒlɪfaɪɪŋ] *adj. sport* кваліфікацы́йны, адбо́рачны; **a qualifying match** адбо́рачны матч; **the qualifying rounds** адбо́рачныя спабо́рніцтвы; папярэ́днія выступле́нні

**qualitative** [ˈkwɒlɪtətɪv] *adj.* **1.** я́касны; **qualitative analysis** я́касны ана́ліз; **a qualitative adjective** *ling.* я́касны прыме́тнік **2.** аўтарытэ́тны; **a qualitative judgement** аўтарытэ́тная ду́мка

**quality**[1] [ˈkwɒləti] *n.* **1.** я́касць, гату́нак; уласці́васць; **adequate quality** дабрая́каснасць; **low/high quality** ні́зкая/высо́кая я́касць; **premium/prime quality** вышэ́йшая я́касць **2.** я́касць, уласці́васць, адзна́ка, характэ́рная асаблі́васць, приме́та; *You need special qualities to work as a nurse.* Каб працаваць медыцынскай сястрой, вам патрэбна мець пэўныя асабістыя якасці.

**quality**[2] [ˈkwɒləti] *adj.* высакая́касны, высо́кай я́касці

**quality assurance** [ˈkwɒlətiəˌʃʊərəns] *n.* забеспячэ́нне я́касці (*прадукцыі*)

**quality control** [ˈkwɒlətikənˌtrəʊl] *n.* кантро́ль, праве́рка я́касці; кірава́нне я́касцю

**quality label** [ˈkwɒlətiˌleɪbl] *n.* знак я́касці

**qualm** [kwɑːm, kwɔːm] *n.* **(about)** **1.** сумне́нне, няўпэ́ўненасць; хіста́нне; *He had no qualms about working in a foreign country.* Ён без роздуму згадзіўся працаваць за мяжой. **2.** неспако́й, трыво́га; **feel some qualms about the future** адчува́ць страх пе́рад бу́дучыняй

**quandary** [ˈkwɒndəri] *n.* ця́жкае стано́вішча, дыле́ма; ця́жкасць; збянтэ́жанасць, неўразуме́нне; **be in a quandary** быць у ця́жкім стано́вішчы; не ве́даць, як дзе́йнічаць

**quanta** [ˈkwɒntə] *pl.* → **quantum**

**quantifier** [ˈkwɒntɪfaɪə] *n. ling.* квантыфіка́тар

**quantify** [ˈkwɒntɪfaɪ] *v.* вызнача́ць ко́лькасць; выяўля́ць ко́лькасць; падава́ць у ко́лькаснай фо́рме

**quantitative** [ˈkwɒntɪtətɪv] *adj.* **1.** ко́лькасны; **quantitative analysis** ко́лькасны ана́ліз **2.** які́ паддае́цца ко́лькаснаму вылічэ́нню; які́ мо́жна зме́раць

**quantity** [ˈkwɒntəti] *n.* **1.** ко́лькасць; **a large/considerable quantity** вялі́кая/зна́чная ко́лькасць; **in quantity** у вялі́кай ко́лькасці, дастатко́ва **2.** до́ля, ча́стка; *There's only a small quantity left.* Засталася толькі нязначная частка.

**quantum** [ˈkwɒntəm] *n.* (*pl.* **quanta**) *phys.* квант; **a quantum of energy** квант эне́ргіі

**quantum mechanics** [ˌkwɒntəmməˈkænɪks] *n. phys.* ква́нтавая меха́ніка

**quantum theory** [ˌkwɒntəmˈθɪəri] *n. phys.* ква́нтавая тэо́рыя

**quarantine**[1] [ˈkwɒrəntiːn] *n.* **1.** каранці́н; ізаля́цыя; **a quarantine inspection** каранці́нны

агля́д; **a vessel held in quarantine** су́дна, на якóе наклáдзены каранці́н; **keep/retain smb. in quarantine** утры́мліваць кагó-н. на каранці́не **2.** ізаля́тар; **put smb. in/under quarantine** змясці́ць кагó-н. у ізаля́тар

**quarantine**[2] [ˈkwɒrəntiːn] *v.* **1.** падвяргáць каранці́ну; утры́мліваць на каранці́не **2.** падвяргáць ізаля́цыі; **quarantine an aggressor nation** ізалявáць краі́ну-агрэ́сара

**quark** [kwɑːk] *n. phys.* кварк

**quarrel**[1] [ˈkwɒrəl] *n.* **1.** спрэ́чка, свáрка; звáдка; **a quarrel about/over smth.** спрэ́чка з-за чагó-н.; **make up/patch up a quarrel** памíры́цца; **seek a quarrel** шукáць свáркі **2. : have no quarrel with smb./smth.** не мець нічóга су́праць кагó-н./чагó-н.; *I have no quarrel with him.* Мне няма за што на яго крыўдзіцца.

**quarrel**[2] [ˈkwɒrəl] *v.* **(with, about/over)** свары́цца; спрачáцца

**quarrelling** [ˈkwɒrəlɪŋ] *n.* свáркі; *There was constant quarrelling in their family.* У іх сям'і заўсёды былі сваркі.

**quarrelsome** [ˈkwɒrəlsəm] *adj.* задзíрысты; прыдзíрлівы; сварлíвы

**quarry**[1] [ˈkwɒri] *n.* **1.** кар'ép, адкры́тая вы́рабатка; **a stone quarry** каменялóмня **2.** здабы́ча; дзічы́на; намéчаная ахвя́ра

**quarry**[2] [ˈkwɒri] *v.* распрацóўваць кар'ép; здабывáць (*камень з кар'ера*)

**quarry stone** [ˈkwɒriˌstəʊn] *n. tech.* бут, бу́тавы кáмень, плітня́к

**quart** [kwɔːt] *n.* **1.** квáрта (*мера вадкасці*) (*in the UK = 1,14 л., in the US = 0,94 л.*) **2.** пасу́дзіна ёмістасцю ў адну́ квáрту ♦ **put a quart into a pint pot** рабíць немагчы́мае

**quarter**[1] [ˈkwɔːtə] *n.* **1.** чвэрць, чацвёртая чáстка; **a quarter of a mile** чвэрць мíлі; **a page and a quarter** старóнка з чвэ́рцю **2.** чвэрць гадзíны, пятнáццаць хвілíн; *I'll meet you in a quarter of an hour.* Сустрэнемся праз чвэрць гадзіны. **3.** квартáл, чвэрць гóда, тры мéсяцы **4.** квартáл; **a residential quarter** квартáл жылы́х дамóў; раён, чáстка гóрада; **a student quarter** студэ́нцкі гарадóк; **in the industrial quarter of the city** у прамысло́вым раёне гóрада **5.** *AmE* манéта вáртасцю чвэрць дóлара (*25 цэнтаў*) **6.** квáдра; **the quarters of the moon** квáдры Мéсяца

**quarter**[2] [ˈkwɔːtə] *v.* **1.** дзялíць, падзялíць на чаты́ры рóўныя чáсткі; **quarter an apple** падзялíць я́блык на чаты́ры рóўныя чáсткі **2.** *fml* расквatарóўваць, стáвіць на пастóй; **quarter troops in the city** раскватаравáць вóйска ў гóрадзе

**quarter-final** [ˌkwɔːtəˈfaɪnl] *n. sport* **1.** чвэрцьфінáльная гульня́ **2.** *pl.* **quarter-finals** чвэрцьфінáл; **enter/reach the quarter-finals** вы́йсці ў чвэрцьфінáл

**quarterly**[1] [ˈkwɔːtəli] *n.* перыяды́чнае выдáнне, якóе выхóдзіць раз у тры мéсяцы; квартáльнік

**quarterly**[2] [ˈkwɔːtəli] *adj.* трохмéсячны, квартáльны, штоквартáльны; **a quarterly magazine** штоквартáльны часóпіс

**quarterly**[3] [ˈkwɔːtəli] *adv.* раз у квартáл, раз у тры мéсяцы, пакварта́льна; *I pay my rent quarterly.* Я плачу за кватэру пакварта́льна.

**quartern** [ˈkwɔːtn] *n.* чвэрць, чвэ́ртка, чацвёртая чáстка

**quarters** [ˈkwɔːtəz] *n. pl.* **1.** памяшкáнне, жыллё, кватэ́ра; **summer quarters** лéтняе памяшкáнне; **the King's quarters** рэзідэ́нцыя караля́ **2.** казáрма

**quartet** [kwɔːˈtet] *n.* **1.** *mus.* квартэ́т **2.** *infml* гру́па з чатырóх чалавéк **3.** *poet.* страфá з чатырóх радкóў

**quartz** [kwɔːts] *n. geol.* **1.** кварц (*мінерал*) **2.** квáрцавы крыштáль; **a quartz gold watch** залаты́ квáрцавы гадзíннік

**quasar** [ˈkweɪzɑː] *n. astron.* квазáр

**quash** [kwɒʃ] *v.* **1.** *law* анулявáць, адмяня́ць; **quash charges against smb.** зняць абвінавáчанне з кагó-н.; **quash a sentence** анулявáць судзíмасць **2.** *fml* заглушáць; знішчáць, руйнавáць; **quash a person** знíшчыць чалавéка; **quash one's feelings** заглушáць пачу́цці

**quasiatom** [ˌkwɑːzɪˈætəm] *n. phys.* квазіáтам, квазіáтамнае ўтварэ́нне (*з часцінак*)

**quatercentenary** [ˌkwætəsenˈtiːnəri] *n.* чатырохсотгадóвы юбілéй, чатырохсотгóддзе; **the quatercentenary of Shakespeare's birth** чатырохсотгóддзе з дня нараджэ́ння Шэкспíра

**quatrian** [ˈkwɒtreɪn] *n. poet.* чатырохрадкóўе, катрэ́н (*у санеце*)

**quaver**[1] [ˈkweɪvə] *n.* **1.** дрыжáнне гóласу **2.** трэль **3.** *BrE, mus.* вóсьмая нóта

**quaver**[2] [ˈkweɪvə] *v.* **1.** дрыжáць, вібры́раваць; гавары́ць дрыгóткім гóласам; *She quavered out her little song.* Дрыжачым голасам яна выканала песеньку. **2.** вывóдзіць трэ́лі

**quay** [kiː] *n.* прычáл; набярэ́жная

**quayside** [ˈkiːsaɪd] *n.* мол, пры́стань; **on/at the quayside** на пры́стані

**queen** [kwiːn] *n.* **1.** каралéва; **the Queen of England** каралéва Áнгліі; *Elizabeth II became Queen of England in 1952.* Елізавета II стала каралевай Англіі ў 1952 годзе. **2.** багíня, цары́ца; **a queen of beauty** багíня прыгажóсці

3. ма́тка (*у пчолаў*) **4.** да́ма (*карта*); **a queen of hearts** чырво́вая да́ма **5.** каралéва, ферзь (*у шахматах*)

**queen-apple** [ˈkwiːnˌæpl] *n. bot.* айвá

**queenly** [ˈkwiːnli] *adj.* вéлічны, вялíкасны; *She gave a queenly wave as she rode past.* Яна велічна памахала рукою, праязджаючы міма.

**queen mother** [ˌkwiːnˈmʌðə] *n.* каралéва-мáці

**queer**[1] [kwɪə] *n. slang* гомасексуалíст

**queer**[2] [kwɪə] *adj.* **1.** *dated* дзíўны, незвычáйны, дзівакавáты, нязвы́клы; **a queer act** дзíўны ўчы́нак; *What a queer story!* Якая незвычайная гісторыя! **2.** *slang* гомасексуáльны

**queer**[3] [kwɪə] *v.* **1.** псавáць **2.** ашýкваць, абдýрваць; махлявáць ♦ **queer smb.'s pitch/queer the pitch (for smb.)** *BrE, infml* прычыня́ць непрыéмнасці (камý-н.)

**queerly** [ˈkwɪəli] *adv.* **1.** дзíўна, незвычáйна **2.** дзівакавáта **3.** падазрóна; няпэ́ўна

**queerness** [ˈkwɪənəs] *n.* дзíўнасць, незвычáйнасць

**quell** [kwel] *v.* **1.** падаўля́ць, знішчáць, нíшчыць; **quell the opposition** знíшчыць апазíцыю; **quell an attempt** сарвáць спрóбу **2.** супакóйваць, аслабля́ць, змякчáць; **quell one's fears** падавíць у сабé страх; **quell one's passions** утаймавáць пачýцці

**quench** [kwentʃ] *v.* **1.** наталя́ць, заспакóйваць; **quench one's thirst** наталíць смáгу **2.** *fml* тушы́ць, гасíць; **quench a fire** тушы́ць пажáр **3.** падаўля́ць, знішчáць (*пачуцці, жаданні*); **quench one's desire** падавíць жадáнне; **quench hope** разбуры́ць надзéю

**quenchless** [ˈkwentʃləs] *adj.* нязгáсны, няўтóльны; **a quenchless flame** вéчны агóнь

**quern** [kwɜːn] *n.* ручны́ млынóк (*для кавы, перцу*)

**querulous** [ˈkwerələs] *adj.* **1.** *fml* незадавóлены, бурклíвы, раздражнёны; **a querulous tone** незадавóлены тон **2.** жáласны, жáласлівы; **a querulous voice** жáласны гóлас

**query**[1] [ˈkwɪəri] *n.* **1.** пытáнне; *We will answer your queries by letter.* Мы адкажам на вашы пытанні ў лісце. **2.** пытáльнік (*на палях кнігі*)

**query**[2] [ˈkwɪəri] *v.* **1.** выкáзваць сумнéнне; **query a statement** выкáзваць сумнéнне накóнт заявы **2.** *fml* задавáць пытáнне

**query language** [ˈkwɪəriˌlæŋgwɪdʒ] *n. comput.* мóва зáпытаў

**quest**[1] [kwest] *n. fml* пóшукі, пагóня (*за чым-н.*); **in quest of smb./smth.** у пóшуках кагó-н./чагó-н.

**quest**[2] [kwest] *v. fml* шукáць, адшýкваць; **quest for smth.** шукáць што-н.

**question**[1] [ˈkwestʃən] *n.* **1.** пытáнне; *May I ask a question?* Можна задаць пытанне? **2.** праблéма, спрáва; пытáнне, якóе абмяркóўваецца; **economic/social questions** эканамíчныя/сацыя́льныя праблéмы **3.** сумнéнне; пярэ́чанне; *There is no question about it.* У гэтым ніхто не сумняваецца. ♦ **beyond question** без сумнéння; **in question** згадáны; **out of the question** безумóўна, нáват гавóркі нямá; **without question** без сумнéння; **bring/throw smth. into question** стáвіць што-н. пад сумнéнне, аспрэ́чваць

**question**[2] [ˈkwestʃən] *v.* **1.** пытáць, пытáцца; задавáць пытáнні; распы́тваць; **question smb. (about/on smth.)** распы́тваць кагó-н. (пра што-н.); дапы́тваць; *He was arrested and questioned about the missing money.* Яго арыштавалі і дапытвалі пра грошы, што прапалі. **2.** сумнявáцца, падвяргáць сумнéнню; **question a decision** сумнявáцца ў прáвільнасці рашэ́ння; *I question whether he is right.* Я не ўпэўнены, што ён мае рацыю.

**questionable** [ˈkwestʃənəbl] *adj.* **1.** няпэ́ўны; ненадзéйны; сумнíўны; **a questionable statement** заява, якáя не выклікáе давéру **2.** падазрóны, які́ мáе дрэ́нную рэпутáцыю

**questioning**[1] [ˈkwestʃənɪŋ] *n.* **1.** распы́тванне, вывéдванне **2.** дóпыт; *The police called him in for questioning.* Яго выклікалі на допыт у паліцыю.

**questioning**[2] [ˈkwestʃənɪŋ] *adj.* запытáльны, дапы́тлівы; *She gave him a questioning look.* Яна паглядзела на яго запытальна.

**questioningly** [ˈkwestʃənɪŋli] *adv.* пытáльна, запытáльна, запы́тліва, дапы́тліва

**question mark** [ˈkwestʃənˌmɑːk] *n.* пытáльнік ♦ **a question mark over/against smth.** няўпэ́ўненасць у дачынéнні да чагó-н.

**questionnaire** [ˌkwestʃəˈneə] *n.* **(on/about)** анкéта; апытáльнік; апытáльны ліст

**question tag** [ˈkwestʃənˌtæg] *n. ling.* карóткае агýльнае пытáнне (*у другой частцы расчляfolнёнага пытання*); *You are from London, aren't you?* Вы з Лондана, ці не так?

**queue**[1] [kjuː] *n.* **1.** чаргá; **stand in a queue** стая́ць у чарзé; **join the queue** стаць у чаргý **2.** *comput.* чаргá, чаргóвасць

**queue**[2] [kjuː] *v.* **1.** стая́ць у чарзé; станавíцца ў чаргý; **queue up for smth.** стая́ць у чарзé за чым-н. **2.** *comput.* стáвіць у чаргý

**quibble**[1] [ˈkwɪbl] *n.* прыдзíрка; заўвáга; *I have just one quibble – there is a spelling mistake here.* У мяне адна заўвага – тут ёсць арфаграфічная памылка.

**quibble**[2] [ˈkwɪbl] *v.* вышу́кваць недахо́пы; прыдзіра́цца, чапля́цца; **quibble about/over smth.** прыдзіра́цца да чаго́-н.

**quibbling** [ˈkwɪblɪŋ] *adj.* прыдзі́рлівы

**quiche** [ki:ʃ] *n.* піро́г з заварны́м крэ́мам і ро́знай начы́нкай

**quick**[1] [kwɪk] *adj.* **1.** ху́ткі, шпа́ркі; **a quick journey** кароткатэрміно́вая пае́здка; **be quick** спяша́цца; **at a quick pace** у ху́ткім тэ́мпе, ху́тка; **a quick fix** скараспе́лае рашэ́нне; **a quick pulse** ча́сты пульс **2.** ке́млівы; знахо́длівы; дасці́пны; **a quick child** ке́млівае дзіця́ ♦ **have a quick temper** мець запа́льчывы хара́ктар, круты́ но́раў

**quick**[2] [kwɪk] *adv.* ху́тка, шпа́рка; *Come back quick – something terrible has happened.* Хутчэй вяртайся – здарылася нешта страшнае. ♦ **as quick as a flash** з ху́ткасцю мала́нкі, імгне́нна; **quick off the mark** адра́зу, у ху́ткім ча́се пасля́ таго́, неўзаба́ве

**quicken**[1] [ˈkwɪkən] *v. fml* **1.** ажыўля́ць, абнаўля́ць; паскара́ць **2.** выкліка́ць, абуджа́ць; **quicken smb.'s imagination** абудзі́ць чыю́-н. фанта́зію; **quicken smb.'s interest in smth.** выклі́каць у каго́-н. ціка́васць да чаго́-н.;

**quickening** [ˈkwɪkənɪŋ] *n.* **1.** ажыўле́нне, абнаўле́нне прыро́ды **2.** паскарэ́нне

**quick-freeze** [ˌkwɪkˈfri:z] *v.* **1.** ху́тка замаро́жваць (*прадукты*) **2.** ху́тка замярза́ць (*пра прадукты*)

**quick grass** [ˈkwɪkgrɑ:s] *n. bot.* пы́рнік

**quickie** [ˈkwɪki] *n. infml* **1.** наспе́х вы́пушчаная праду́кцыя; халту́ра (*пра кнігу, фільм і да т.п.*) **2.** зро́бленае ў спе́шцы; **a quickie divorce** паспе́шлівы разво́д

**quicklime** [ˈkwɪklaɪm] *n.* няга́шаная ва́пна

**quickly** [ˈkwɪkli] *adv.* ху́тка, неадкла́дна; *She walked quickly across the road.* Яна хутка перайшла дарогу.

**quickness** [ˈkwɪknəs] *n.* **1.** ху́ткасць, шпа́ркасць, ско́расць **2.** быстрыня́, жва́васць **3.** ке́млівасць, ця́млівасць, знахо́длівасць **4.** запа́льчывасць, раздражня́льнасць

**quicksand** [ˈkwɪksænd] *n.* (*таксама pl.* **quicksands**) **1.** *geol.* плыву́н; зы́бкі пясо́к **2.** ба́гна (*перан.*); **get caught in the quicksands** тра́піць у ба́гну

**quick-sighted** [ˌkwɪkˈsaɪtɪd] *adj.* **1.** які́ ма́е до́бры зрок **2.** праны́клівы

**quicksightedness** [ˌkwɪkˈsaɪtɪdnəs] *n.* **1.** вастрыня́ зро́ку **2.** праны́клівасць

**quicksilver**[1] [ˈkwɪksɪlvə] *n.* **1.** *chem.* ртуць **2.** руха́васць, жва́васць ♦ **have quicksilver in one's veins** быць ве́льмі жва́вым чалаве́кам

**quicksilver**[2] [ˈkwɪksɪlvə] *adj.* **1.** я́ркі, бліску́чы **2.** *lit.* руха́вы, жва́вы

**quickstep** [ˈkwɪkstep] *n.* **1.** кві́кстэп, ху́ткі та́нец **2.** *mil.* марш у ху́ткім тэ́мпе

**quick-tempered** [ˌkwɪkˈtempəd] *adj.* запа́льчывы, гара́чы, раздражнёны

**quick-witted** [ˌkwɪkˈwɪtɪd] *adj.* **1.** знахо́длівы, ке́млівы **2.** дасці́пны

**quick-wittedly** [ˌkwɪkˈwɪtɪdli] *adv.* **1.** знахо́дліва, ке́мліва **2.** дасці́пна

**quid** [kwɪd] *n.* (*pl.* **quid**) *BrE, infml* фунт стэ́рлінгаў; *Can you lend me five quid?* Пазыч мне, калі ласка, пяць фунтаў.

**quid pro quo** [ˌkwɪdprəʊˈkwəʊ] *n. лацін.* паслу́га за паслу́гу, кампенса́цыя

**quiet**[1] [ˈkwaɪət] *n.* **1**. цішыня́, маўча́нне, спако́й; **the quiet of the mind** душэ́ўны спако́й **2.** спако́й, мір; **live in peace and quiet** жыць у мі́ры і спако́і ♦ **on the quiet** па сакрэ́це

**quiet**[2] [ˈkwaɪət] *adj.* **1.** ці́хі, бясшу́мны, нячу́тны; **quiet footsteps** бясшу́мныя кро́кі, **quiet neighbours** спако́йныя missing сусе́дзі **2.** спако́йны, нерухо́мы; **a quiet river** спако́йная рака́ **3.** ці́хі, спако́йны; **quiet sleep** ціхамі́рны сон ♦ **keep quiet about smth./keep smth. quiet** трыма́ць што-н. у сакрэ́це

**quiet**[3] [ˈkwaɪət] *v.* супако́йваць; супако́йвацца; спыня́ць; уціхамі́рваць; уціхамі́рвацца; уці́хнуць; **quiet a baby** супако́іць дзіця́; **quiet the pulse** адрэгулява́ць пульс; *The wind quieted.* Вецер супакоіўся.

**quieten** [ˈkwaɪətn] *v.* супако́йваць; супако́йвацца; уціхамі́рваць; уціхамі́рвацца; **quieten smb./smth. down** супако́іць каго́-н./што-н.; *The chatter quietened briefly when she came into the room.* Балбатня хутка сціхла, калі яна зайшла ў пакой.

**quietly** [ˈkwaɪətli] *adv.* **1.** ці́ха, бясшу́мна; *Peter spoke so quietly I could hardly hear him.* Пётр гаварыў так ціха, што я ледзь чуў яго. **2.** мі́рна, спако́йна

**quietness** [ˈkwaɪətnəs] *n.* **1.** цішыня́, бясшу́мнасць **2.** спако́й

**quietude** [ˈkwaɪətju:d] *n. lit.* цішыня́; спако́й

**quiff** [kwɪf] *n.* грыу́ка

**quill** [kwɪl] *n.* **1.** птушы́нае пяро́ **2.** (гусі́нае) пяро́ для пісьма́

**quilt**[1] [kwɪlt] *n.* **1.** падшыва́ная ко́ўдра; **a quilt of grey clouds** лахма́тыя шэ́рыя хма́ры **2.** піке́ (*тканіна*) **3.** піке́йнае пакрыва́ла

**quilt**[2] [kwɪlt] *v.* **1.** падшыва́ць, прашыва́ць; падбіва́ць ва́тай **2.** сшыва́ць **3.** зашыва́ць (*у падкладку, пояс*)

**quilted** [ˈkwɪltɪd] *adj.* падшываны, падбіты ватай, ваці́нам і да т.п.; **a quilted coat** падшыванае паліто́; вато́ўка
**quilting** [ˈkwɪltɪŋ] *n.* **1.** шыццё; падшыванне, падбі́ўка **2.** піке́ (*тканіна*) **3.** крыжападо́бнае шво
**quin** [kwɪn] *n. BrE, infml* = **quintuplet**
**quince** [kwɪns] *n. bot.* айва́
**quincentenary¹** [ˌkwɪnsenˈtiːnəri] *n. fml* пяцісотгадо́вы юбіле́й, пяцісотго́ддзе
**quincentenary²** [ˌkwɪnsenˈtiːnəri] *adj. fml* пяцісотгадо́вы
**quinine** [kwɪˈniːn] *n. chem.* хіні́н
**quinoa** [ˈkiːnəʊə] *n. bot.* лебяда́
**quinquennial¹** [kwɪŋˈkweniəl] *n.* **1.** *fml* пяцігоддзе **2.** магістра́т з паўнамо́цтвамі на пяць гадо́ў
**quinquennial²** [kwɪŋˈkweniəl] *adj.* **1.** *fml* які́ працу́гваецца пяць гадо́ў **2.** які́ адбыва́ецца кожны пя́ты год
**quinquennium** [kwɪŋˈkweniəm] *n.* (*pl.* **-ia**) *fml* пяцігоддзе
**quint** [kwɪnt] *n. AmE, infml* = **quintuplet**
**quintessence** [kwɪnˈtesns] *n. fml* **1.** квінтэсе́нцыя, су́тнасць **2.** дасканаласць; *John is the quintessence of good manners.* Джон – гэта прыклад добрага густу.
**quintessential** [ˌkwɪntɪˈsenʃl] *adj.* асно́ўны, найбо́льш істо́тны
**quintet** [kwɪnˈtet] *n.* **1.** *mus.* квінтэ́т **2.** *mus.* музы́чны твор для пяці́ галасо́ў або́ інструме́нтаў **3.** гру́па з пяці́ чалаве́к або́ прадме́таў
**quintuplet** [ˈkwɪntjʊplət] *n.* адзі́н з пяці́ блізня́т
**quintuplicate¹** [kwɪnˈtjuːplɪkət] *n.* **1.** набо́р з пяці́ адно́лькавых прадме́таў **2.** пяць адно́лькавых ко́пій; **typed in quintuplicate** надрукава́ны ў пяці́ экзэмпля́рах
**quintuplicate²** [kwɪnˈtjuːplɪkət] *adj.* **1.** (існу́ючы) у пяці́ ко́піях, экзэмпля́рах **2.** адзі́н з пяці́ адно́лькавых экзэмпля́раў
**quintuplicate³** [kwɪnˈtjuːplɪkeɪt] *v.* рабі́ць што-н. у пяці́ экзэмпля́рах
**quip¹** [kwɪp] *n.* **1.** разу́мная заўвага; **make a quip** рабіць разу́мную заўвагу
**quip²** [kwɪp] *v.* рабіць разу́мную заўва́гу
**quirk¹** [kwɜːk] *n.* **1.** паваро́т, вы́гіб, вы́гін; **a quirk of fate** нечака́ны паваро́т лёсу **2.** вы́ крут, выкрута́с; хі́трасць; дзіва́цтва
**quirk²** [kwɜːk] *v.* **1.** каламбу́рыць **2.** насміха́цца, кпіць, падко́лваць, яхі́днічаць, высме́йваць
**quirkiness** [ˈkwɜːkinəs] *n.* вы́чварнасць, мудрагелістаць, дзіва́цтва
**quirky** [ˈkwɜːki] *adj.* **1.** выкру́тлівы, спры́тны **2.** дзі́ўны, нязвы́чны; вы́чварны, мудрагелісты
**quirly** [ˈkwɜːli] *n. AmE, slang* цыга́рка, самакру́тка
**quisle** [ˈkwɪzl] *v.* здра́джваць радзі́ме; быць здра́днікам
**quisling** [ˈkwɪzlɪŋ] *n.* кві́слінг, здра́днік
**quit** [kwɪt] *v. infml* **1.** пакіда́ць, кіда́ць; **quit one's family** кі́нуць сям'ю́; **quit the place** перасялі́цца ў і́ншае ме́сца **2.** кіда́ць, канча́ць, спыня́ць; **quit smoking** кі́нуць куры́ць; **quit school** кі́нуць шко́лу **3.** спыня́ць спро́бы; адмаўля́цца ад спро́бы зрабі́ць (*што-н.*)
**quite** [kwaɪt] *adv.* **1.** ца́лкам; зусі́м; *I've got a letter from Sylvia quite recently.* Зусім нядаўна я атрымаў ліст ад Сільвіі; *I quite agree with you.* Я цалкам згодзен з вамі. **2.** ама́ль; у некато́рай ступе́ні; больш-менш; даво́лі, до́сыць; **quite a good fellow** зусі́м нядрэ́нны хло́пец ♦ **quite a/the smth.** сапраўды́, на са́май спра́ве; *She is quite a beauty.* Яна сапраўдная прыгажуня.
**quits** [kwɪts] *adj. infml* у разлі́ку; **call it quits** канча́ць, спыня́ць якую́-н. дзе́йнасць; *At 12 o'clock we decided to call it quits.* У дванаццаць гадзін мы вырашылі скончыць работу. ♦ **be quits (with smb.)** разлічы́цца (з кім-н.); расквіта́цца (з кім-н.); адплаці́ць (каму́-н.); *You pay for the taxi, and we're quits.* Ты плаці за таксі, і мы квіты.
**quitter** [ˈkwɪtə] *n.* **1.** той, хто лёгка адступа́е пе́рад ця́жкасцямі; баязлі́вец **2.** гульта́й; лайда́к, абібо́к, ле́жань
**quiver¹** [ˈkwɪvə] *n.* калча́н
**quiver²** [ˈkwɪvə] *n.* дры́жыкі, трапята́нне; **not a quiver of an eyelid** ≅ во́кам не маргну́ць
**quiver³** [ˈkwɪvə] *v.* дрыжа́ць дро́бнымі дры́жыкамі; **quiver with fear/with cold** дрыжа́ць ад стра́ху/хо́ладу
**quiveringly** [ˈkwɪvərɪŋli] *adv.* з дрыжа́ннем
**Quixote** [ˈkwɪksət] *n. fml* донкіхо́т
**quixotic** [kwɪkˈsɒtɪk] *adj. iron., fml* донкіхо́цкі
**quixotically** [kwɪkˈsɒtɪkəli] *adv.* па-донкіхо́цку
**quiz¹** [kwɪz] *n.* **1.** се́рыя пыта́нняў; віктары́на; **a quiz show** радыёвіктары́на, тэлевіктары́на **2.** кантро́льнае апыта́нне (*у класе*); ву́сная або́ пісьмо́вая праве́рка
**quiz²** [kwɪz] *v.* **1.** апы́тваць; право́дзіць апыта́нне; право́дзіць ву́сную або́ пісьмо́вую праве́рку; **quiz a class in history** апыта́ць клас на ўро́ку гісто́рыі **2. : quiz smb. about/on/over smth.** выпы́тваць каго́-н. пра што-н., выпы́тваць што-н. у каго́-н.; дапы́тваць каго́-н.
**quizmaster** [ˈkwɪzˌmɑːstə] *n.* вяду́чы ў ра́дыё- або́ тэлевіктары́не

**quizzer** [ˈkwɪzə] *n.* насме́шнік; высkаля́ка, вы́шчарка

**quizzery** [ˈkwɪzəri] *n.* насміха́нне; выскаля́нне

**quizzical** [ˈkwɪzɪkl] *adj.* **1.** насме́шлівы, жартаўлі́вы; **a quizzical glance** насме́шлівы по́зірк; **a quizzical remark** жартаўлі́вая заўва́га **2.** дзівакава́ты; дзі́ўны

**quizzically** [ˈkwɪzɪkli] *adv.* **1.** жартаўлі́ва, насме́шліва **2.** дзівакава́та; дзі́ўна; камі́чна

**quod** [kwɒd] *n. infml, dated* турма́, астро́г

**quod vide** [ˌkwɒdˈviːdeɪ] *лацін.* глядзі́ (*на пэўнай старонцы*)

**quoit**[1] [k(w)ɔɪt] *n. sport* **1.** кіда́льнае кальцо́ **2.** *pl.* **quoits** кіда́нне ў цэль

**quoit**[2] [k(w)ɔɪt] *v. sport* кіда́ць у кальцо́, у цэль

**quorum** [ˈkwɔːrəm] *n. лацін.* кво́рум; *We have a quorum.* У нас ёсць кворум.

**quota** [ˈkwəʊtə] *n.* **1.** до́ля, ча́стка, кво́та; *There is a strict quota on imports and exports.* Ёсць квота на імпарт і экспарт. **2.** мінімáльная ко́лькасць, неабхо́дная для выбра́ныя кандыда́та

**quotable** [ˈkwəʊtəbl] *adj.* **1.** ва́рты цытава́ння; афарысты́чны **2.** прыда́тны для цытава́ння; прысто́йны

**quotation** [kwəʊˈteɪʃn] *n.* **1.** цыта́та; цытава́нне; **a quotation from the Bible** цыта́та з Бі́бліі **2.** *econ.* цана́; расцэ́нка; *Can you give me a quotation for building a garage?* У колькі абыдзецца будаўніцтва гаража?

**quotation marks** [kwəʊˈteɪʃnˌmɑːks] *n. pl.* двуко́ссе

**quote**[1] [kwəʊt] *n. infml* **1.** цыта́та **2.** *pl.* **quotes** двуко́ссе **3.** цана́, расцэ́нка

**quote**[2] [kwəʊt] *v.* **1.** цытава́ць; прыво́дзіць чые́-н. сло́вы; *She quoted from a newspaper article.* Яна прывяла цытату з газетнага артыкула. **2.** рабі́ць спасы́лку; спасыла́цца; *May I quote you on that?* Можна пры гэтым спасылацца на вас? **3.** *econ.* назнача́ць цану́, ста́ўку; **quote a price on a house** назна́чыць цану́ за дом

**quoteworthy** [ˈkwəʊtˌwɜːði] *adj.* дасто́йны, ва́рты цытава́ння

**quotidian** [kwɒˈtɪdiən] *adj. fml* **1.** штодзённы, які́ штодня́ паўтара́ецца **2.** бана́льны, звыча́йны; **a quotidian thought** бана́льная ду́мка

**quotient** [ˈkwəʊʃnt] *n.* **1.** *math.* дзель **2.** ча́стка, до́ля; **electoral quotient** ко́лькасць галасо́ў, неабхо́дных для выбра́ння кандыда́та **3.** пака́зчык; каэфіцые́нт; **intelligence quotient (IQ)** пака́зчык разумо́вых здо́льнасцей

**Quran, Qur'an** [kəˈrɑːn] *n.* Кара́н

**q.v.** [ˌkjuːˈviː] (*скар. ад лацін.* **quod vide**) гл. (*глядзі на пэўнай старонцы*)

**qwerty, QWERTY** [ˈkwɜːti] *n.* станда́ртнае размяшчэ́нне лі́тар на клавіяту́ры пі́шучай машы́нкі або́ камп'ютара (*з лацінскім шрыфтам*)

# Rr

**R, r** [ɑː] *n. 18-я літара англійскага алфавіта* ♦ **the three Rs (*reading*, (*w*)*riting*, (*a*)*rithmetic*)** азы́ наву́кі (*чытанне, пісьмо, арыфметыка*)

**Ra** [rɑː] *n. myth.* Ра (*бог сонца ў Старажытным Егіпце*)

**rabbi** [ˈræbaɪ] *n.* (*pl.* **rabbis**) **1.** ра́бін **2.** *bibl.* ра́бі, наста́ўнік

**rabbit**[1] [ˈræbɪt] *n. zool.* трус

**rabbit**[2] [ˈræbɪt] *v.* палява́ць на труса́ або́ за́йца; ста́віць па́стку на трусо́ў або́ зайцо́ў

**rabbit on** [ˌræbɪtˈɒn] *phr.v. BrE, infml* **(about)** гавары́ць (*доўга, падрабязна, шматслоўна*), пляву́згаць

**rabbit-hearted** [ˌræbɪtˈhɑːtɪd] *adj.* баязлі́вы, з за́ячай душо́й

**rabble** [ˈræbl] *n.* **1.** нато́ўп; **a rabble of children** нато́ўп дзяце́й **2. the rabble** зброд

**rabble-rouser** [ˈræblˌraʊzə] *n.* дэмаго́г; падбухто́ршчык

**rabid** [ˈræbɪd] *adj.* **1.** лю́ты, раз'ю́шаны, раз'я́траны; **rabid hatred** шалёная/лю́тая няна́вісць **2.** шалёны, ашале́лы; **a rabid dog** шалёны саба́ка

**rabidity** [rəˈbɪdəti] *n.* лю́тасць, раз'ю́шанасць

**rabies** [ˈreɪbiːz] *n. med.* шале́нства; вадабо́язь

**raccoon** [rəˈkuːn] *n.* (*таксама* **racoon**) **1.** *zool.* яно́т **2.** фу́тра яно́та; **a raccoon collar** яно́тавы каўне́р

**race**[1] [reɪs] *n.* **1.** спабо́рніцтва па бе́гу; бег на ху́ткасць; го́нка; **a race boat** го́starнaя ло́дка **2.** *pl.* **the races** ска́чкі; **go to the races** хадзі́ць на ска́чкі **3.** *sport* дыста́нцыя ♦ **a race against time/the clock** го́нка на час

**race**[2] [reɪs] *v.* **1.** спабо́рнічаць на ху́ткасць; удзе́льнічаць у го́нках **2.** удзе́льнічаць у ска́чках **3.** імча́цца, не́сціся

**race**[3] [reɪs] *n.* **1.** ра́са; **without distinction as to race** без ра́савых адро́зненняў **2.** род; пле́мя; э́тнас; **the human race** род чалаве́чы

**racecard** [ˈreɪskɑːd] *n. BrE* прагра́ма ска́чак

**racecourse** [ˈreɪskɔːs] *n. BrE, sport* іпадро́м

**racehorse** [ˈreɪshɔːs] *n.* скакавы́ конь

**raceme** [ˈræsiːm] *n. bot.* кісць, гро́нка

**race meeting** [ˈreɪsˌmiːtɪŋ] *n. BrE* ска́чкі

**racer** [ˈreɪsə] *n.* **1.** го́ншчык **2.** скакавы́ конь, скаку́н **3.** го́начнае су́дна; го́начная я́хта **4.** го́начны аўтамабі́ль

**racetrack** [ˈreɪstræk] *n. sport* **1.** трэк **2.** *AmE* іпадро́м
**race walking** [ˈreɪsˌwɔːkɪŋ] *n.* спарты́ўная хадзьба́
**rachides** [ˈrækɪdiːz] *pl.* → **rachis**
**rachis** [ˈreɪkɪs] *n.* (*pl.* **rachides**) **1.** *anat.* пазвано́чнік, хрыбе́т **2.** *bot.* асцю́к
**rachitic** [rəˈkɪtɪk] *adj. med.* рахіты́чны
**rachitis** [rəˈkaɪtɪs] *n. med.* рахі́т
**racial** [ˈreɪʃl] *adj.* ра́савы; расі́сцкі; **racial discrimination** ра́савая дыскрыміна́цыя; **racial prejudice** ра́савыя забабо́ны
**racialism** [ˈreɪʃəlɪzəm] *n. BrE, dated* расі́зм
**racialist** [ˈreɪʃəlɪst] *n. BrE, dated* расі́ст
**racing** [ˈreɪsɪŋ] *n.* **1.** спабо́рніцтва на ху́ткасць; **foot racing** бег на ху́ткасць; **motor racing** аўтаго́нкі **2.** ска́чкі
**racing car** [ˈreɪsɪŋkɑː] *n. BrE* го́начны аўтамабі́ль
**racism** [ˈreɪsɪzəm] *n.* **1.** расі́зм **2.** ра́савая дыскрыміна́цыя
**racist** [ˈreɪsɪst] *n.* расі́ст
**rack**[1] [ræk] *n.* **1.** ве́шалка (*з кручкамі*) **2.** палі́ца, стэла́ж; **a luggage rack** палі́ца для рэ́чаў (*у аўтобусе, цягніку*); *The dishes are on the plate rack.* Посуд на сушылцы. **3. the rack** *hist.* ды́ба
**rack**[2] [ræk] *n.* **: ♦ go to rack and ruin** пайсці́ пра́хам, зні́шчыцца, загі́нуць
**rack**[3] [ræk] *v.* му́чыць; му́чыцца ♦ **rack one's brains** лама́ць сабе́ галаву́
**racket**[1] [ˈrækɪt] *n.* (*таксама* **racquet**) раке́тка (*для гульні ў тэніс, бадмінтон і да т.п.*)
**racket**[2] [ˈrækɪt] *n.* **1.** *infml* шум; ля́мант; гру́кат; **make a racket** шуме́ць, крыча́ць, лямантава́ць **2.** падма́н; махля́рства; афе́ра; **be in on a racket** быць удзе́льнікам афе́ры **3.** *infml* рэ́кет; шанта́ж; вымага́нне
**racket**[3] [ˈrækɪt] *v. infml.* шуме́ць, грыме́ць, груката́ць; паруша́ць (*цішыню, спакой*)
**racketeer**[1] [ˌrækəˈtɪə] *n.* рэкецір; вымага́льнік; махля́р; аферы́ст
**racketeer**[2] [ˌrækəˈtɪə] *v.* **1.** вымага́ць (*грошы*); шантажы́раваць **2.** займа́цца афе́рамі
**racketeering** [ˌrækəˈtɪərɪŋ] *n.* **1.** вымага́нне; шанта́ж **2.** махля́рства; афе́ры **3.** крыміна́льная дзе́йнасць (*арганізаваная*)
**rackety** [ˈrækəti] *adj.* шу́мны; бязла́дны; хаатычны
**racking** [ˈrækɪŋ] *adj.* **1.** паку́тлівы; **a racking toothache** нясце́рпны зубны́ боль **2.** празме́рны, непасі́льны (*пра падатак, арэндную плату і да т.п.*)
**racoon** [rəˈkuːn] = **raccoon**
**racquet** [ˈrækɪt] = **racket**[1]
**racy** [ˈreɪsi] *adj.* піка́нтны (*у розных знач.*); жва́вы; энергі́чны; **racy humour** калары́тны гу́мар; **racy jokes** піка́нтныя жа́рты

**radar**[1] [ˈreɪdɑː] *n.* **1.** рада́р; радыёлака́тар **2.** радыёлака́цыя
**radar**[2] [ˈreɪdɑː] *adj.* радыёлакацы́йны, рада́рны; **a radar transmitter** радыёлакацы́йны перада́тчык
**radar trap** [ˈreɪdɑːˌtræp] *n.* рада́рная па́стка
**radial** [ˈreɪdiəl] *adj.* **1.** радыя́льны **2.** *anat.* прамянёвы
**radiance** [ˈreɪdiəns] *n.* **1.** ззя́нне; **the sun's radiance** со́нечнае ззя́нне **2.** бляск, прамяні́стасць
**radiant** [ˈreɪdiənt] *adj.* **1.** зіхатлі́вы, ра́дасны; бліску́чы; **radiant beauty** асляпля́льная прыгажо́сць **2.** праме́нны; **radiant heat** цеплаво́е выпраме́ньванне
**radiate** [ˈreɪdieɪt] *v.* **1.** выпраме́ньваць; выпраме́ньвацца; вылуча́ць; вылуча́цца (*пра святло, цяпло, промні*) **2.** ззяць, зіхаце́ць, блішча́ць; *Her eyes radiated love and joy*. Яе вочы свяціліся любоўю і радасцю; *He radiated energy and self-confidence.* Ад яго зыходзілі энергія і самаўпэўненасць. **3.** разыхо́дзіцца про́мнямі, выхо́дзіць з адно́й кро́пкі
**radiation** [ˌreɪdiˈeɪʃn] *n. phys.* радыя́цыя; выпраме́ньванне; **atomic radiation** я́дзернае выпраме́ньванне; **radiation sickness** *med.* прамянёвая хваро́ба
**radiator** [ˈreɪdieɪtə] *n.* **1.** радыя́тар, батарэ́я (*ацяплення*) **2.** радыя́тар (*у аўтамабілі*)
**radical**[1] [ˈrædɪkl] *n.* **1.** радыка́л **2.** *chem.* радыка́л **3.** *math.* ко́рань **4.** *ling.* ко́рань (*слова*)
**radical**[2] [ˈrædɪkl] *adj.* радыка́льны, карэ́нны; фундамента́льны; **radical views** радыка́льныя перакана́нні; **radical reforms** карэ́нныя рэфо́рмы
**radii** [ˈreɪdiaɪ] *pl.* → **radius**
**radio**[1] [ˈreɪdiəʊ] *n.* **1.** (*часта* **the radio**) ра́дыё; **send a message by radio** переда́ць паведамле́нне па ра́дыё; **a radio play** радыёпастано́ўка; *I heard it on/over the radio.* Я чуў гэта па радыё. **2.** радыёвяшча́нне; **radio signal/waves** радыёсігна́л/радыёхва́лі **3.** радыёпрыёмнік; **a portable radio** партаты́ўны радыёпрыёмнік
**radio**[2] [ˈreɪdiəʊ] *v.* перадава́ць па ра́дыё; пасыла́ць радыёгра́му; радзі́раваць
**radioactive** [ˌreɪdiəʊˈæktɪv] *adj.* радыеакты́ўны; **highly radioactive** высокарадыеакты́ўны
**radioactivity** [ˌreɪdiəʊækˈtɪvəti] *n.* радыеакты́ўнасць
**radio beacon** [ˌreɪdiəʊˈbiːkən] *n.* радыёмая́к
**radio beam** [ˌreɪdiəʊˈbiːm] *n.* радыёпраме́нь
**radiobiology** [ˌreɪdiəʊbaɪˈɒlədʒi] *n.* радыебіяло́гія
**radio broadcast**[1] [ˌreɪdiəʊˈbrɔːdkɑːst] *n.* радыёперада́ча
**radiobroadcast**[2] [ˌreɪdiəʊˈbrɔːdkɑːst] *v.* перадава́ць па ра́дыё, вяшча́ць

**radio button** [ˈreɪdiəʊˌbʌtn] *n. comput.* радыёкнóпка; залéжная кнóпка
**radio call** [ˌreɪdiəʊˈkɔːl] *n.* радыёпазыўны́, радыёсігнáл
**radiocarbon** [ˌreɪdiəʊˈkɑːbən] *n. chem.* радыеакты́ўны вугляро́д
**radiochemistry** [ˌreɪdiəʊˈkemɪstri] *n.* радыяхі́мія
**radioecology** [ˌreɪdiəʊɪˈkɒlədʒi] *n.* радыеэкалóгія, радыяцы́йная экалóгія
**radiogram** [ˈreɪdiəʊɡræm] *n.* **1.** *dated* радыёгрáма **2.** рэнтгéнаўскі зды́мак; рэнтгенагрáма **3.** радыёла
**radiographer** [ˌreɪdiˈɒɡrəfə] *n.* рэнтгенóлаг, радыёлаг
**radiography** [ˌreɪdiˈɒɡrəfi] *n.* радыягрáфія
**radioisotope** [ˌreɪdiəʊˈaɪsətəʊp] *n. chem.* радыеакты́ўны ізатóп, радыеізатóп
**radiological** [ˌreɪdiəʊˈlɒdʒɪkl] *adj.* **1.** радыелагі́чны; рэнтгеналагі́чны **2.** радыеакты́ўны
**radiologist** [ˌreɪdiˈɒlədʒɪst] *n.* радыёлаг, рэнтгенóлаг
**radiology** [ˌreɪdiˈɒlədʒi] *n.* радыялóгія, рэнтгеналóгія
**radiometric** [ˌreɪdiəʊˈmetrɪk] *adj.* радыеметры́чны
**radionics** [ˌreɪdiˈɒnɪks] *n.* радыёэлектрóніка
**radioscopy** [ˌreɪdiˈɒskəpi] *n.* рэнтгенаскапі́я
**radio-telephone** [ˌreɪdiəʊˈtelɪfəʊn] *n.* радыётэлефóн
**radio telescope** [ˌreɪdiəʊˈtelɪskəʊp] *n.* радыётэлескóп
**radiotherapy** [ˌreɪdiəʊˈθerəpi] *n. med.* радыетэрапі́я; лячэ́нне іанізавáным апрамéньваннем
**radio waves** [ˈreɪdiəʊˌweɪvz] *n.* радыёхвáлі
**radish** [ˈrædɪʃ] *n. bot.* рады́ска
**radium** [ˈreɪdiəm] *n. chem.* рáдый
**radius** [ˈreɪdiəs] *n.* (*pl.* **radii**) **1.** *math.* рáдыус **2.** акрýга; плóшча; раён; **within a radius of action** у рáдыусе дзéяння
**radon** [ˈreɪdɒn] *n. chem.* радóн
**radwaste** [ˈrædweɪst] *n. infml* радыеакты́ўныя адхóды
**raffish** [ˈræfɪʃ] *adj.* бесталкóвы; шалапýтны; вульгáрны; **a raffish young man** малады́ распýснік
**raffle**[1] [ˈræfl] *n.* рэ́чавая латарэ́я; **raffle tickets** латарэ́йныя білéты
**raffle**[2] [ˈræfl] *v.* разы́грываць у латарэ́ю
**raft**[1] [rɑːft] *n.* **1.** плыт **2.** надзімáная лóдка
**raft**[2] [rɑːft] *v.* **1.** збівáць/звя́зваць у плыт **2.** сплаўля́ць лес у плытáх **3.** пераганя́ць абó пераправуля́ць на плыцé
**rafter** [ˈrɑːftə] *n.* **1.** сплáўшчык; плытагóн **2.** крóквіна
**rag**[1] [ræɡ] *n.* **1.** абрэ́зак (*тканіны*); анýча **2.** *pl.* **rags** рызманы́, рыззё; лахманы́; **worn to rags** знóшаны, падрáны, панóшаны ♦ **in rags** у лахманáх, у рыззі́; **(from) rags to riches** ≅ з грáзі ды ў кня́зі
**rag**[2] [ræɡ] *n.* кпі́ны, кéпікі; паджартóўванне
**rag**[3] [ræɡ] *v.* **1.** *BrE, infml* кпіць; наўмы́сна вывóдзіць з сябé; даймáць насмéшкамі **2. (on)** *AmE, infml* скáрдзіцца (*на каго-н.*)
**ragamuffin** [ˈræɡəˌmʌfɪn] *n.* (*таксама* **raggamuffin**) абадрáнец
**rag-and-bone-man** [ˌræɡənˈbəʊnmæn] *n. BrE* анýчнік; стары́знік
**ragbag** [ˈræɡbæɡ] *n.* **1.** мяшóк для абрэ́зкаў **2.** усякая ўся́чына
**rag doll** [ˌræɡˈdɒl] *n.* ля́лька, зрóбленая з ткані́ны
**rage**[1] [reɪdʒ] *n.* **1.** лю́тасць; гнеў; шалéнства; **blind with rage** аслéплены лю́тасцю; **mad with rage** звар'яцéлы ад гнéву; **be in the rage with smb.** разгнéвацца на кагó-н.; **kill a man in a rage** у прыпáдку лю́тасці забі́ць чалавéка **2.** раз'ю́шанасць, шалéнства, раз'я́транасць; **the rage of the wind** шалéнства вéтру ♦ **be all the rage** *infml* быць вéльмі папуля́рным і мóдным
**rage**[2] [reɪdʒ] *v.* **1.** быць у гнéве; вар'явáцца; шалéць, злавáцца; **rage at/against smb./smth.** злавáцца на кагó-н./штó-н. **2.** бушавáць, лютавáць (*пра буру, эпідэмію, вайну*); *The sea raged.* Мора бушавала.
**rag fair** [ˈræɡˌfeə] *n.* барахóлка
**ragged** [ˈræɡɪd] *adj.* **1.** парвáны, падрáны; панóшаны, знóшаны **2.** няро́ўны, рвáны; касмáты; **ragged clouds** рвáныя хмáры; **a ragged beard** касмáтая барадá **3.** *infml* вéльмі стóмлены ♦ **run smb. ragged** *infml* мýчыць, змýчваць; мардавáць кагó-н.
**raggedy** [ˈræɡɪdi] *adj.* знóшаны; **a raggedy old coat** пашарпáнае палітó
**raging** [ˈreɪdʒɪŋ] *adj.* **1.** вéльмі мóцны (*пра пачуцці або боль*); **raging thirst** нясцéрпная смáга; **raging headache** нясцéрпны галаўны́ боль; **raging jealousy** лю́тая рэ́ўнасць **2.** шалёны; раз'ю́шаны; неўтаймавáны; **a raging sea** раз'ю́шанае мóра
**raglan** [ˈræɡlən] *n.* **: a raglan sleeve** рукáў рэглáн
**ragman** [ˈræɡmən] *n.* (*pl.* **-men**) стары́знік
**ragout**[1] [ræˈɡuː, ˈræɡuː] *n. франц.* рагý
**ragtime** [ˈræɡtaɪm] *n. mus.* рэгтáйм
**ragweed** [ˈræɡwiːd] *n. bot.* амбрóзія
**ragwort** [ˈræɡwɜːt] *n. bot.* старасцéнь
**raid**[1] [reɪd] *n.* **1.** набéг, налёт; рэйд; **an air raid** павéтраны налёт; **a police raid** паліцэ́йская аблáва; **make a raid into the enemy camp** зрабі́ць налёт на лáгер праці́ўніка **2.** налёт (*бандытаў*); **a raid on a bank** налёт на банк

**raid²** [reɪd] *v.* здзе́йсніць набе́г, зрабі́ць абла́ву

**raider** [ˈreɪdə] *n.* налётчык; **armed raiders** узбро́еныя налётчыкі; **masked raiders** налётчыкі ў ма́сках

**rail¹** [reɪl] *n.* **1.** по́ручань **2.** папяро́чка, перакла́дзіна **3.** рэ́йка **4.** чыгу́нка (*від транспарту*); **by rail** по́ездам ♦ **go off the rails** *infml* збіва́цца з панталы́ку; губля́ць галаву́; каці́цца пад адхо́н

**rail²** [reɪl] *v.* **1. (in)** абгаро́джваць, агаро́джваць **2. (off)** адгаро́джваць; *The police railed off the area where the accident happened.* Паліцыя адгарадзіла месца здарэння. **3.** праклада́ць рэ́йкі

**rail³** [reɪl] *v. fml* **(at/against)** ла́яцца; нарака́ць, ска́рдзіцца; **rail against injustice** ска́рдзіцца на несправядлі́васць

**railing** [ˈreɪlɪŋ] *n.* **1.** за́гарадзь, за́гарадка; плот, агаро́джа **2.** рэ́йка; до́шка

**raillery** [ˈreɪləri] *n. fml* падсме́йванне, дабраду́шная насме́шка

**railman** [ˈreɪlmən] *BrE* (*pl.* **-men**) = **railwayman**

**railroad¹** [ˈreɪlrəʊd] *n. AmE* чыгу́нка

**railroad²** [ˈreɪlrəʊd] *v.* **: railroad smb. (into smth./into doing smth.)** прыму́сіць або́ ўгавары́ць каго́-н. зрабі́ць што-н.; *The workers were railroaded into signing the agreement.* Рабочых угаварылі падпісаць пагадненне.

**railroader** [ˈreɪlrəʊdə] *n. AmE* = **railwayman**

**railway** [ˈreɪlweɪ] *n. BrE* чыгу́нка; **a railway time-table** раскла́д цягнíкóў; **a railway station** чыгу́начная ста́нцыя; **a railway junction** чыгу́начны ву́зел

**railwayman** [ˈreɪlweɪmən] *n. BrE* (*pl.* **-men**) чыгу́начнік

**rain¹** [reɪn] *n.* дождж; **drizzling rain** імгла́, імжа́; **pouring/ pelting/driving/torrential rain** лі́вень; **radioactive rain** радыеакты́ўны дождж; *It looks like rain.* Здаецца, збіраецца на дождж. ♦ **right as rain** зусі́м здаро́вы, у пара́дку; **rain or shine** ≅ кроў з но́са; пры любы́х умо́вах; што б там ні было́; *We'll be there tomorrow rain or shine.* Заўтра мы там будзем, кроў з носа.

**rain²** [reɪn] *v.* **1.** ісці́, лі́цца (*пра дождж*); *It is raining.* Ідзе дождж; *It rained very hard.* Быў лівень. **2.** 1) сы́паць; абсыпа́ць; **rain kisses/ compliments upon smb.** абсыпа́ць каго́-н. пацалу́нкамі/ кампліме́нтамі 2) сы́пацца (*градам*), лі́цца (*ручаём*); *Tears rained down her cheeks.* Па яе шчоках ручаём ліліся слёзы. ♦ **be raining cats and dogs** *infml* ≅ ліць як з вядра́ (*пра дождж*); **be rained off : ** *The concert has been rained off.* Канцэрт адмянілі з-за дажджу.

**rainbow** [ˈreɪnbəʊ] *n.* вясёлка

**raincloud** [ˈreɪnklaʊd] *n.* хма́ра

**raincoat** [ˈreɪnkəʊt] *n.* плашч, дажджаві́к

**raindrop** [ˈreɪndrɒp] *n.* дажджава́я кро́пля, дажджы́нка

**rainfall** [ˈreɪnfɔːl] *n.* атмасфе́рныя апа́дкі; **an area with very low rainfall** раён з ве́льмі ні́зкай ко́лькасцю атмасфе́рных апа́дкаў

**rainforest** [ˈreɪnˌfɒrɪst] *n.* трапі́чны лес; вільго́тныя джу́нглі; се́льва

**rainproof** [ˈreɪnpruːf] *adj.* воданепраніка́льны; непрамака́льны

**rainstorm** [ˈreɪnstɔːm] *n.* лі́вень з урага́нам, бу́ра, навальні́ца

**rainwater** [ˈreɪnˌwɔːtə] *n.* дажджава́я вада́

**rainwear** [ˈreɪnweə] *n.* непрамака́льнае адзе́нне; непрамака́льны абу́так

**rainy** [ˈreɪni] *adj.* **1.** дажджлі́вы; **rainy weather** дажджлі́вае надво́р'е **2.** дажджавы́ (*пра хмару*) ♦ **save/keep smth. for a rainy day** адкла́дваць што-н. на чо́рны дзень

**raise¹** [reɪz] *n. AmE* прыба́ўка (*да зарплаты*); **ask for a raise** прасі́ць аб павелічэ́нні зарплаты; *He got a raise.* Яму павысілі зарплату.

**raise²** [reɪz] *v.* **1.** падыма́ць, паднíма́ць; **raise anchor** зня́цца з я́кара; **raise one's eyes** узня́ць во́чы (*на каго-н.*) **2. : raise one's voice** павыша́ць го́лас **3.** павыша́ць; павялі́чваць; **raise prices** павы́сіць цэ́ны; **raise wages** павы́сіць зарпла́ту **4.** выклíка́ць, параджа́ць; **raise suspicion** узбуджа́ць падазрэ́нне **5.** выро́шчваць; разво́дзіць; **raise cattle** разво́дзіць буйну́ю рага́тую жывёлу; **raise corn/vegetables/ flowers** выро́шчваць кукуру́зу/агаро́дніну/ кве́ткі **6.** гадава́ць, выхо́ўваць (*дзяцей*) **7. : raise a question** паста́віць пыта́нне **8.** збіра́ць, здабыва́ць (*грошы*); **raise money for charity** збіра́ць гро́шы на дабрачы́ннасць ♦ **raise one's glass (to smb.)** падня́ць бака́л (за каго́-н.); сказа́ць тост; **raise one's hand against smb.** узня́ць руку́ на каго́-н., уда́рыць каго́-н.; **raise smb.'s spirits** узня́ць каму́-н. настро́й, падбадзёрыць каго́-н.; *He didn't* ***raise a finger*** *to help us.* Ён і пальцам не паварушыў, каб дапамагчы нам.

**raisin** [ˈreɪzn] *n.* разы́нка; *pl.* **raisin** разы́нкі

**Raj** [rɑːdʒ] *n.* **the Raj** *hist.* брыта́нскае праўле́нне ў Індыі да 1947 го́да; **under the British Raj** пад брыта́нскай падле́гласцю

**raja(h)** [ˈrɑːdʒə] *n. hist.* раджа́

**rake¹** [reɪk] *n.* гра́блі; **a croupier's rake** лапа́тка круп'е́ ♦ **as lean/as thin as a rake** худы́ як шкілéт; сухí як шчэ́пка

**rake²** [reɪk] *v.* **1.** зграба́ць гра́блямі; зараўно́ўваць **2.** стара́нна шука́ць (*што-н.*)
**rake in** [ˌreɪkˈɪn] *phr.v. infml* заграба́ць гро́шы
**rake out** [ˌreɪkˈaʊt] *phr.v.* **1.** выграба́ць (*вугаль, попел*) **2.** вышу́кваць, выко́пваць; **rake out information** здабыва́ць звесткі
**rake up** [ˌreɪkˈʌp] *phr.v. infml* **: rake up the past** варушы́ць міну́лае (*неадабральна*)

**rally¹** [ˈræli] *n.* **1.** збор, сход; мі́тынг (*масавы*); з'езд; **a peace rally** мі́тынг у падтры́мку мі́ру; **Nazi rallies** фашы́сцкія збо́рышчы **2.** *BrE, sport* ра́лі, аўтара́лі **3.** аднаўле́нне сіл

**rally²** [ˈræli] *v.* **1.** збіра́ць; збіра́цца; аб'ядно́ўваць; аб'ядно́ўвацца; **rally round/around smb.** згуртава́ццаваќол каго́-н. **2.** акрыя́ць, ачуня́ць, паправі́цца

**ram¹** [ræm] *n.* **1.** бара́н **2.** *tech.* тара́н **3. the Ram** *asrton.* Аве́н (*сузор'е*) **4. the Ram** *astrol.* Аве́н (*знак задыяка*; *чалавек, які нарадзіўся пад гэтым знакам*)

**ram²** [ræm] *v.* тара́ніць; **ram into smth.** наляце́ць на што-н.; *His car was rammed into from behind by a lorry.* У ягоную машыну ззаду ўрэзаўся грузавік.

**Ramadan** [ˈræmədæn, ræməˈdæn] *n. relig.* рамаза́н; пост (*у мусульман*)

**ramble¹** [ˈræmbl] *n.* прагу́лка, шпа́цыр (*без пэўнай мэты*); *We went on a ramble in the park.* Мы пагулялі па парку.

**ramble²** [ˈræmbl] *v.* **1.** гуля́ць, шпацырава́ць, хадзі́ць; **ramble through the streets** гуля́ць па ву́ліцах; **ramble over the country** гуля́ць за го́радам **2. (on)** балбата́ць, пераско́кваць з прадме́та на прадме́т (*у размове*)

**rambler** [ˈræmblə] *n.* **1.** вандро́ўнік **2.** *bot.* паво́йная ру́жа

**rambling** [ˈræmblɪŋ] *adj.* **1.** бязла́дны, хааты́чны, няскла́дны (*пра мову*) **2.** паўзу́чы, паво́йны (*пра расліны*)

**ramp** [ræmp] *n.* схіл, нахі́л

**rampage¹** [ˈræmpeɪdʒ] *n.* разгу́л, буя́нства; **go on the rampage** шале́ць, лютава́ць; вар'ява́цца

**rampage²** [ræmˈpeɪdʒ,ˈræmpeɪdʒ] *v.* шале́ць, буя́ніць

**rampant** [ˈræmpənt] *adj.* **1.** нястры́мны (*пра інфляцыю*) **2.** буйны́, пы́шны (*пра расліннасць*)

**ran** [ræn] *past* → **run²**

**ranch** [rɑːntʃ] *n.* ра́нча; **a poultry ranch** птушкафе́рма; **a mink ranch** но́ркавая фе́рма

**rancher** [ˈrɑːntʃə] *n.* улада́льнік ра́нча; жывёлаво́д

**ranch house** [ˈrɑːntʃˌhaʊs] *n.* жылы́ дом фе́рмера; дом гаспадара́ ра́нча

**rancid** [ˈrænsɪd] *adj.* прагорклы, пратухлы (*пра масла, тлушч і да т.п.*)

**rancorous** [ˈræŋkərəs] *adj.* зласлі́вы; по́мслівы; злапа́мятны

**rancour** [ˈræŋkə] *n. BrE, fml* злосць; (*патаемная*) няна́вісць; по́мслівасць; **nurse rancour against/ towards smb.** зато́йваць злосць на каго́-н. ; **without rancour** незласлі́ва

**random¹** [ˈrændəm] *n.* **: ♦ at random** наўздага́д, не паду́маўшы; наўга́д

**random²** [ˈrændəm] *adj.* зро́блены або́ ска́заны наўздага́д; выпадко́вы; хааты́чны; **a random remark** выпадко́вая заўва́га; *A few random shots were fired.* Было зроблена некалькі хаатычных стрэлаў.

**rang** [ræŋ] *past* → **ring³**

**range¹** [reɪndʒ] *n.* **1. (of)** шэ́раг; ланцу́г, чарада́; се́рыя; **a range of mountains** го́рны ланцу́г; **the whole range of events** уве́сь ход падзе́й **2.** дыяпазо́н **3.** сфе́ра, зо́на; **a range of influence** сфе́ра ўплы́ву **4.** дасяга́льнасць, да́льнасць дзе́яння **5.** палі́гон ♦ **in/within range (of smth.)** у ме́жах (чаго́-н.); **out of range** недасяга́льна, недася́жна

**range²** [reɪndʒ] *v.* **1.** выстро́йваць у рад; ста́віць па пара́дку; **range books on the shelf according to size** размяшча́ць на палі́цы кні́гі па фарма́це **2. (along)** распасці́рацца, распаўсю́джвацца; цягну́цца ўздоўж (*чаго-н.*) **3. : be ranged against smb./smth.** аб'ядна́цца су́праць каго́-н./чаго́-н. **4.** вага́цца; **range from/ between** вага́цца ў пэ́ўных ме́жах; **range in size/length/price** вага́цца ў паме́ры/даўжыні́/цане́ **5.** вандрава́ць

**ranger** [ˈreɪndʒə] *n.* ляснí́к, аб'е́здчык

**rank¹** [ræŋk] *n.* **1.** стано́вішча, ста́тус **2.** зва́нне; чын; паса́да; *He was stripped of his rank.* Яго пазбавілі звання. **3.** *pl.* **the ranks** радавы́я; **rise from the ranks** прайсці́ шлях ад радаво́га да афіцэ́ра **4.** шарэ́нга; **join the ranks** уступі́ць у строй **5.** рад, шэ́раг; **the ranks of unemployed** рады́ беспрацо́ўных ♦ **break ranks** пару́шыць строй

**rank²** [ræŋk] *v.* **1.** класіфікава́ць; дава́ць ацэ́нку, ацэ́ньваць; **rank second** займа́ць друго́е ме́сца **2.** выстро́йваць у рад/шарэ́нгу; **rank the books on the shelf** размяшча́ць кні́гі на палі́цы

**rank³** [ræŋk] *adj.* **1.** сапсава́ны; ёлкі; смярдзю́чы; **rank butter** прагорклае ма́сла; **rank fish** ту́хлая ры́ба; **rank smell** смуро́д **2.** буйны́, пы́шны, раско́шны (*пра расліннасць*) **3.** празме́рны; **rank nonsense** по́ўная бязглу́здзіца; **rank injustice** абура́льная несправядлі́васць

**rank and file** [ˌræŋkəndˈfaɪl] *n.* **the rank and file** **1.** *mil.* радавы́я, салда́ты, радавы́ саста́ў **2.** радавы́я чле́ны (*партыі, арганізацыі*)

**ranking**[1] [ˈræŋkɪŋ] *n.* размяшчэ́нне, расстано́ўка па ранжы́ру (*у парадку значнасці, важнасці*) **2. the rankings** *pl. sport* спіс ле́пшых іграко́ў

**ranking**[2] [ˈræŋkɪŋ] *adj.* які́ ма́е вышэ́йшае зва́нне або́ вышэ́йшую паса́ду; **the ranking member of the embassy** кіраўні́к пасо́льства

**rankle** [ˈræŋkl] *v.* **(with)** выклі́ка́ць боль; му́чыць; *It rankled with her.* Успамін пра гэта быў для яе нясцерпны.

**ransack** [ˈrænsæk] *v.* **1. (for)** абшу́кваць, абша́рваць (*дом, чамадан і г.д.*); **ransack the town for a book** абабе́гчы го́рад у по́шуках патрэ́бнай кні́гі **2.** гра́біць, рабава́ць; **ransack smb.'s pockets** абчы́сціць чые́-н. кішэ́ні

**ransom**[1] [ˈrænsəm] *n.* вы́куп; **demand a ransom** патрабава́ць вы́куп ♦ **a king's ransom** вялі́кая су́ма; вялі́кі куш; **hold smb. to ransom** 1) вымага́ць вы́куп за каго́-н. 2) шантажы́раваць каго́-н.

**ransom**[2] [ˈrænsəm] *v.* выкупля́ць; плаці́ць вы́куп

**rap**[1] [ræp] *n.* **1.** стук; *We heard a sharp rap on the door.* Мы пачулі рэзкі стук у дзверы. **2.** *mus.* рэп **3.** *AmE, infml* абвінава́чанне; віна́ ♦ **give smb. a rap on/over the knuckles** *infml* даць каму́-н. па рука́х; **get a rap on/over the knuckles** *infml* атрыма́ць па рука́х; **take the rap** *infml* незаслу́жана атрыма́ць тэ́рмін

**rap**[2] [ræp] *v.* **1.** злёгку ўдара́ць; сту́каць, пасту́кваць; **rap on the door** пасту́каць у дзве́ры **2. (out)** рэ́зка гавары́ць; выкры́кваць; *Captain Blake rapped out an order.* Капітан Блэйк выкрыкнуў загад. **3.** *mus.* выко́нваць рэп ♦ **rap smb. on/over the knuckles** крытыкава́ць каго́-н.

**rapacious** [rəˈpeɪʃəs] *adj. fml* пра́гны, хці́вы, ненасы́тны

**rape**[1] [reɪp] *n.* згвалтава́нне; **commit a rape** згвалтава́ць

**rape**[2] [reɪp] *v.* згва́лціць, згвалтава́ць

**rape**[3] [reɪp] *n. bot.* рапс

**rape oil** [ˈreɪpɔɪl] *n.* ра́псавы але́й

**rapid** [ˈræpɪd] *adj.* ху́ткі, шпа́ркі; *The patient made a rapid recovery.* Пацыент хутка папраўляўся; **a rapid thinker** ке́млівы чалаве́к

**rapid-fire** [ˌræpɪdˈfaɪə] *adj.* паспе́шлівы, паспе́шны; рапто́ўны; **a rapid-fire talk** балбатня́ без перады́шкі; **answer rapid-fire questions** адка́зваць на пыта́нні, які́я задаю́ць адно́ за адны́м

**rapidity** [rəˈpɪdəti] *n.* ху́ткасць, шпа́ркасць

**rapidly** [ˈræpɪdli] *adv.* ху́тка, шпа́рка

**rapid transit** [ˌræpɪdˈtrænzɪt] *n.* ско́расны тра́нспарт (*гарадскі*)

**rapier** [ˈreɪpiə] *n.* рапі́ра

**rapine** [ˈræpaɪn] *n.* грабе́ж

**rapist** [ˈreɪpɪst] *n.* гвалтаўні́к

**rapper** [ˈræpə] *n.* рэ́пер

**rapport** [ræˈpɔː] *n.* узаемаадно́сіны; узаемаразуме́нне; *She established a good rapport with her new colleagues.* Яна ўстанавіла добрыя адносіны з новымі калегамі.

**rapprochement** [ræˈprɒʃmɒ̃] *n. франц. fml* збліжэ́нне; **the sign of a rapprochement between the two countries** све́дчанне збліжэ́ння памі́ж дзвюма́ краі́намі

**rapt** [ræpt] *adj.* **1.** захо́плены, зачарава́ны; **a rapt look** захо́плены по́зірк **2.** паглы́блены; захо́плены (*чым-н.*); **rapt in a book** паглы́блены ў чыта́нне; **rapt in some task** захо́плены яко́й-н. спра́вай

**raptor** [ˈræptə] *n. zool.* драпе́жнік

**raptorial** [ræpˈtɔːrɪəl] *adj. zool.* драпе́жніцкі

**rapture** [ˈræptʃə] *n. fml* захапле́нне, экста́з ♦ **be in/go into raptures about/over smb./smth.** быць у захапле́нні ад каго́-н./чаго́-н.; *She went into raptures about the spring flowers.* Яна была ў захапленні ад веснавых кветак.

**rare**[1] [reə] *adj.* **1.** рэ́дкі; малараспаўсю́джаны; **rare books/postage stamps/metals/gems** рэ́дкія кні́гі/ пашто́выя ма́ркі/ мета́лы/ кашто́ўныя камяні́; *This species of plant is becoming increasingly rare.* Гэты від расліны становіцца надзвычай рэдкім. **2.** *infml* рэ́дкі, выклю́чны; незвыча́йны; **rare courage** выклю́чная му́жнасць; **on the rare occasions** у рэ́дкіх вы́падках

**rare**[2] [reə] *adj.* недасма́жаны (*асабліва пра мяса*); **rare roast beef** ро́стбіф з крывёю

**rarely** [ˈreəli] *adv.* рэ́дка, зрэ́дку; *She very rarely complains.* Яна скардзіцца вельмі рэдка.

**raring** [ˈreərɪŋ] *adj. infml* по́ўны запа́лу, нецярплі́васці, імкне́ння; *They are raring to go.* Яны рвуцца ў дарогу.

**rarity** [ˈreərəti] *n.* **1.** рэ́дкасць; мала́я распаўсю́джанасць; *Such stamps are expensive because of their rarity.* Гэтыя маркі дарагія, таму што яны рэдкія. **2. : an object of great rarity** рарытэ́т; рэ́дкая з'ява; дзі́ва

**rascal** [ˈrɑːskl] *n. hum.* хітру́н, шэ́льма; сваво́льнік, гарэ́за; *You little rascal!* Маленькі нягоднік!; *That young rascal is a nephew of mine.* Гэты малы гарэза – мой пляменнік. **2.** *dated* махля́р

**rash**[1] [ræʃ] *n. med.* сып, вы́сыпка; **nettle rash** крапі́ўніца

**rash²** [ræʃ] *adj.* зана́дта паспе́шлівы; неабду́маны, неасцяро́жны; безразва́жны; **a rash statement** неабду́маная зая́ва; **a rash act** безразва́жны ўчы́нак; *Don't go making any rash decisions!* Не прымай паспешлівых рашэнняў!; *It was rather rash of you to lend them your car.* З вашага боку было безразважна пазычаць ім сваю машыну.

**rasp¹** [rɑːsp] *n.* **1.** ра́шпіль **2.** скры́гат **3.** скрыпу́чы/рыпу́чы гук

**rasp²** [rɑːsp] *v.* **1.** скрэ́бці; саскрабаць **2.** скрыгата́ць **3.** сіпе́ць, хрыпе́ць; **in a rasping voice** скрыпу́чым/рыпу́чым го́ласам; **rasp out orders** хры́пла выкры́кваць зага́ды

**raspberry** [ˈrɑːzbəri] *n. bot.* малі́ны; **a raspberry bush** малі́навы куст; **a raspberry field** малі́ннік; **raspberry jam** малі́навы джэм

**raster** [ˈræstə] *n. comput.* растр; **raster image** ра́стравае адлюстрава́нне

**raster image processor** [ˌræstəˈɪmɪdʒprəʊˌsesə] *n. comput.* працэ́сар ра́стравых адлюстрава́нняў

**rat¹** [ræt] *n.* **1.** *zool.* пацу́к; *Rats leave a sinking ship.* Пацукі бягуць з карабля, які тоне. **2.** *infml* здра́днік; рэнега́т; перабе́жчык

**rat²** [ræt] *v. infml* **1.** стаць рэнега́там/перабе́жчыкам **2.** **(on)** здра́дзіць, вы́даць (*каго-н.*), дане́сці (*на каго-н.*)

**rate¹** [reɪt] *n.* **1.** но́рма; паме́р; **birth rate** нараджа́льнасць; **crime rate** пака́зчык злачы́ннасці **2.** ста́ўка, тары́ф; та́кса **3.** ху́ткасць; тэмп; **the rate of growth** тэмп ро́сту **4.** *finance* курс; **the rate of exchange** валю́тны курс; абме́нны курс; **dollar rate** курс до́лара ♦ **at any rate** *infml* ва ўся́кім ра́зе

**rate²** [reɪt] *v.* **1.** ацэ́ньваць; падлі́чваць, лічы́ць; *What do you rate his fortune at?* У якую суму вы ацэньваеце яго маёмасць? **2.** *infml* лічы́ць, разгляда́ць; меркава́ць; *She is generally rated as one of the best modern poets.* Яе лічаць адной з найлепшых сучасных паэтак.

**rather** [ˈrɑːðə] *adv.* **1.** да некато́рай ступе́ні, часткова, не́калькі, тро́хі; **rather dull/ interesting/ dark/ lengthy** даво́лі ну́дны/ ціка́вы/ цёмны/до́ўгі; *Simon's always been rather a difficult person to get along with.* Сайман такі чалавек, з якім заўсёды нялёгка паладзіць. **2.** дакла́дней; па пра́ўдзе ка́жучы; *Rather we have won.* Наадварот, мы перамаглі; *We came home late last night, or rather, early this morning.* Мы прыйшлі позна ўчора, а правільней, сёння раніцай. ♦ **rather than** лепш, ле́пей; ахво́тней, перава́жна; **I had rather/I would rather/I'd rather** я б адда́ў перава́гу, я палічы́ў бы за ле́пшае, я б ахво́тней; *To be honest I'd rather have a quiet night in front of the TV.* Шчыра кажучы, я б лепей правёў вечар перад тэлевізарам.

**ratification** [ˌrætɪfɪˈkeɪʃn] *n.* ратыфіка́цыя; **conditional/partial ratification** умо́ўная/частко́вая ратыфіка́цыя; **an attempt to delay ratification of the treaty** спро́ба адкла́сці ратыфіка́цыю пагадне́ння

**ratify** [ˈrætɪfaɪ] *v.* ратыфікава́ць; *The treaty was ratified by all the member states.* Пагадненне было ратыфікавана ўсімі дзяржавамі-членамі.

**rating** [ˈreɪtɪŋ] *n.* **1.** ацэ́нка; вызначэ́нне, устанаўле́нне ко́шту; *Education has been given a high-priority rating by the new administration.* Новая адміністрацыя адводзіць адукацыі прыярытэтную ролю. **2.** *pl.* **the ratings** рэ́йтынг; і́ндэкс папуля́рнасці; *The film has gone up in the ratings.* Папулярнасць фільма ўзрасла.

**ratio** [ˈreɪʃiəʊ] *n.* (*pl.* **-os**) прапо́рцыя; суадно́сіны; *The population contains a very high ratio of young people.* Вельмі вялікі працэнт насельніцтва складае моладзь.

**ration¹** [ˈræʃn] *n.* рацыён, но́рма, паёк

**ration²** [ˈræʃn] *v.* **1.** выдава́ць паёк **2.** забяспе́чваць харчава́ннем; *The army is well rationed.* Армія добра забяспечваецца харчаваннем. **3.** нарміра́ваць; размярко́ўваць па ка́ртках; *Bread was rationed.* Хлеб выдаваўся па картках.

**rational** [ˈræʃnəl] *adj.* **1.** разу́мны, мы́слячы; надзе́лены ро́зумам; **rational beings** разу́мныя, мы́слячыя істо́ты; лю́дзі **2.** мэтазго́дны; разу́мны; **a rational method** рацыяна́льны ме́тад; **rational behaviour/conduct** разва́жлівыя паво́дзіны; **rational mind** цвяро́зы ро́зум **3.** *math.* рацыяна́льны

**rationale** [ˌræʃəˈnɑːl] *n. fml* лагі́чнае абгрунтава́нне, разу́мнае тлумачэ́нне; асно́ўная прычы́на

**rationalism** [ˈræʃnəlɪzəm] *n. philos.* рацыяналі́зм

**rationalist** [ˈræʃnəlɪst] *n.* рацыяналі́ст

**rationalize,** *BrE* **-ise** [ˈræʃnəlaɪz] *v.* дава́ць разу́мнае тлумачэ́нне; лагі́чна абгрунто́ўваць; рацыяналісты́чна тлума́чыць

**rationing** [ˈræʃənɪŋ] *n.* нармава́нне, нарміра́ванне (*прадуктаў*)

**rat race** [ˈrætreɪs] *n.* **the rat race** шалёная пяго́ня за бага́ццем, по́спехам; жо́рсткая канкурэ́нцыя

**rattle¹** [ˈrætl] *n.* **1.** трэск, гру́кат; пeрасту́к; **the rattle of hail on the roof** стук гра́ду па да́ху **2.** бразго́тка **3.** трашчо́тка

**rattle²** [ˈrætl] *v. infml* **1.** трашча́ць, груката́ць; грыме́ць; бра́згаць; *The wind rattled the windows.* Вокны дрыжэлі ад ве́тру. **2.** ру́хацца з

гру́катам; *The train rattled past* (*by*). Цягнік з грукатам прамчаўся міма. **3.** *infml* **(on, about)** балбата́ць; трашча́ць, гавары́ць не змаўка́ючы

**rattlesnake** [ˈrætlsneɪk] *n. zool.* грыму́чая змяя́

**rat-trap** [ˈrættræp] *n.* **1.** па́стка для пацукоў **2.** па́стка; бязвы́хаднае стано́вішча

**raucous** [ˈrɔːkəs] *adj.* хры́плы, сі́плы, рэ́зкі; **raucous shouts from the street** пранізлівыя крыкі з ву́ліцы

**ravage** [ˈrævɪdʒ] *v.* спусто́шваць, спусташа́ць; разбура́ць; даво́дзіць да гале́чы; **ravage a city/a country** разрабава́ць го́рад/краі́ну; *The population was ravaged by the cholera.* Насельніцтва было знішчана халерай.

**ravages** [ˈrævɪdʒɪz] *n. pl. fml* разбура́льнае ўздзе́янне; разбурэ́нне, знішчэ́нне; *The ravages of drink were clear in the dark rings under his eyes.* Цёмныя кругі пад яго вачыма сведчылі аб разбуральным уздзеянні алкаголю; **withstand the ravages of time** до́бра захо́ўвацца, супраціўля́цца разбура́льнаму ўздзе́янню ча́су

**rave**[1] [reɪv] *n. infml* **1.** расхва́льванне; дыфіра́мбы; *The play received the critics' raves.* Крытыкі ўзносілі п'есу да нябёс. **2.** рэйв, вечары́на з та́нцамі і вы́піўкай

**rave**[2] [reɪv] *v.* **1.** тры́зніць; гавары́ць без су́вязі, няскла́дна **2.** крыча́ць раз'ю́шана **3.** **(about)** захапля́цца; **rave about smb.'s beauty** захапля́цца чыёй-н. прыгажо́сцю

**ravel** [ˈrævl] *v.* **1.** заблы́тваць, ускладня́ць (*пытанне*) **2.** **(out)** распуска́ць (*вязанне*); **ravel out a frayed sweater** распусці́ць пано́шаны сві́тар

**raven** [ˈreɪvn] *n.* **1.** *zool.* крумка́ч **2.** той, хто наклі́кае бяду́

**raven-haired** [ˌreɪvnˈheəd] *adj.* чо́рны як смоль (*пра валасы*)

**ravening** [ˈrævənɪŋ] *adj. lit.* драпе́жны, пра́гны; пражэ́рлівы; **a ravening beast** драпе́жны звер

**ravenous** [ˈrævənəs] *adj.* гало́дны, ве́льмі пражэ́рлівы; *I am ravenous.* Я галодны як воўк.

**raver** [ˈreɪvə] *n. BrE, infml* гуля́ка

**ravine** [rəˈviːn] *n.* яр; лагчы́на

**raving** [ˈreɪvɪŋ] *adj.* **1.** шалёны, звар'яце́лы; **a raving lunatic** вар'ят **2.** небыва́лы; ашаламля́льны; **a raving beauty** прыгажу́ня, яка́я мо́жа звє́сці з ро́зуму; **a raving success** аглуша́льны по́спех

**ravish** [ˈrævɪʃ] *v. lit.* **1.** захапля́ць, зачаро́ўваць; **ravished by sweet music** зачарава́ны цудо́ўнай му́зыкай **2.** згва́лціць (*жанчыну*)

**ravishing** [ˈrævɪʃɪŋ] *adj.* чаро́ўны, цудо́ўны; абаа́льны; **a ravishing young woman** прыва́бная малада́я жанчы́на

**ravishment** [ˈrævɪʃmənt] *n.* захапле́нне, зачарава́нне; чаро́ўнасць

**raw**[1] [rɔː] *n.* **: ♦ catch/touch smb. on the raw** *BrE* крану́ць каго́-н. за жыво́е; **in the raw** 1) без прыкра́с; **present life in the raw** апі́сваць жыццё такі́м, яко́е яно́ ёсць 2) го́лы

**raw**[2] [rɔː] *adj.* **1.** сыры́; **raw meat** сыро́е мя́са; **raw water** сыра́я, некіпячо́ная вада́ **2.** сыры́, неапрацава́ны (*у розных знач.*); **raw data** неапрацава́ныя статыстычныя да́ныя; **raw material** сырав́іна; **raw sugar** нерафінава́ны цу́кар **3.** зо́лкі; хало́дны і вільго́тны (*пра надвор'е*); **a raw foggy morning** зо́лкая тума́нная ра́ніца; *A raw wind chilled him to the bone.* Халодны вецер прадзімаў яго наскрозь.

**ray**[1] [reɪ] *n.* **1.** праме́нь; **the sun's rays** со́нечныя про́мні **2.** про́бліск; праме́нь; **a ray of hope** про́бліск надзе́і; **not a ray of hope** ніяка́й надзе́і **♦ catch/get/grab some rays** *infml* загара́ць

**ray**[2] [reɪ] *v.* **1.** выпраме́ньваць; выпраме́ньвацца **2.** апраме́ньваць, апрамяня́ць

**ray**[3] [reɪ] *n. zool.* скат

**rayon** [ˈreɪɒn] *n.* шту́чны шоўк, віско́за

**raze** [reɪz] *v.* **1.** разбура́ць ушчэ́нт; зно́сіць; **raze to the ground** сце́рці з зямлі́; *The city was razed by the earthquake.* Горад быў ушчэнт разбураны землетрасеннем. **2.** выкрэ́сліваць, сціра́ць, згла́джваць; **raze out a word** сце́рці або́ закрэ́сліць сло́ва; **raze from memory** сце́рці з па́мяці; **raze from mind** вы́кінуць з галавы́

**razor**[1] [ˈreɪzə] *n.* бры́тва **♦ be on the razor's edge** быць на вастры́і нажа́; ≅ на краі́ бе́здані

**razor**[2] [ˈreɪzə] *v.* **1.** галі́ць; брыць; **a carefully razored chin** чы́ста паго́лены падбаро́дак **2.** падраза́ць, падстрыга́ць; зраза́ць

**razor blade** [ˈreɪzəbleɪd] *n.* лязо́ бры́твы

**razor-fish** [ˈreɪzəˌfɪʃ] *n. zool.* двухство́ркавы малю́ск

**re**[1] [reɪ] *n. mus.* но́та «рэ»

**re**[2] [riː] *prep.* **1.** *law* у спра́ве, па спра́ве; *Smith v. John in re estate of Robinson.* Іск Сміта супраць Джона па справе аб маёмасці Робінсана. **2.** што даты́чыцца, адно́сна; спасыла́ючыся на; **re your letter of the 3d instant** спасыла́ючыся на ва́ша пісьмо́ ад 3-га чысла́ цяпе́рашняга ме́сяца

**reach**[1] [riːtʃ] *n.* дасяга́льнасць; дасту́пнасць (*у розных знач.*); **beyond/above/out of reach** па-за ме́жамі дасяга́льнасці; **within the reach of one's hand** пад руко́й; *The goal is within our reach.* Мы наблізіліся да мэты; **within (easy) reach (of smth.)** у ме́жах дасяга́льнасці

**reach²** [riːtʃ] *v.* **1.** дасяга́ць, дахо́дзіць (*да чаго-н.*); даязджа́ць; **reach the summit of the mountain** дабра́цца да вяршы́ні гары́; *The sum total reaches hundred francs.* Агульная сума складае сто франкаў. **2.** праця́гваць, выця́гваць; распасціра́ць; **reach one's hand across the table** працягну́ць руку́ праз стол **3.** дастава́ць, браць; дацягну́цца (*да чаго-н.*); *I saw him reach for the gun.* Я бачыў, як ён схапіўся за зброю.

**react** [riˈækt] *v.* **1. (to)** рэагава́ць; *Children react to kind treatment.* Ласкай можна многага дабіцца ад дзяцей. **2.** *chem.* **(with)** выкліка́ць рэа́кцыю, уступа́ць у рэа́кцыю **3. (against)** процідзе́йнічаць, супрацьдзе́йнічаць; **react against the oppressive political system** змага́цца су́праць жо́рсткай паліты́чнай сістэ́мы

**reaction** [riˈækʃn] *n.* **1. (to)** рэа́кцыя, рэагава́нне; *What was Jeff's reaction to the news?* Якая была рэакцыя Джэфа на навіны? **2. (against)** процідзе́янне, супрацьдзе́янне **3.** *chem., phys.* рэа́кцыя; **a chain reaction** ланцуго́вая рэа́кцыя **4.** рэакцы́йнасць; **forces of reaction** рэакцы́йныя сілы

**reactionary¹** [riˈækʃənri] *n.* рэакцыяне́р

**reactionary²** [riˈækʃənri] *adj.* рэакцы́йны

**reactivate** [riˈæktɪveɪt] *v.* аднаўля́ць дзейнасць; ажыўля́ць (*работу*)

**reactive** [riˈæktɪv] *adj.* **1.** які́ рэагу́е/дае́ рэа́кцыю **2.** *chem.* рэакты́ўны

**reactor** [riˈæktə] *n.* (*таксама* **a nuclear reactor**) рэа́ктар, я́дзерны рэа́ктар

**read¹** [riːd] *n.* **1.** *infml* чыта́нне; **have a read** право́дзіць/ба́віць час за чыта́ннем; **enjoy a good read** атры́мліваць асало́ду ад чыта́ння ціка́вай кнігі **2.** *comput.* счы́тванне (*даных*)

**read²** [red] *adj.* **(in)** начы́таны; дасве́дчаны (*у якой-н. галіне*); **a widely read man** шыро́ка адукава́ны чалаве́к; **be deeply/little/well read in a subject** мець глыбо́кую/сла́бую/до́брую падрыхто́ўку у якой-н. галіне́

**read³** [riːd] *v.* **(read) 1.** чыта́ць; *She read herself to sleep.* Яна чытала, пакуль не заснула. *Read the instructions carefully before you start.* Перад тым як пачаць, уважліва прачытай інструкцыю. **2. : read a piece of music** разбіра́ць музы́чную п'е́су; **read a map** чыта́ць ка́рту **3.** вывуча́ць; займа́цца; **read law** вывуча́ць правазна́ўства **4.** абмярко́ўваць (*законапраект*); *The bill was read.* Біль быў абмеркаваны. **5.** счы́тваць паказа́нні вымяра́льных прыбо́раў **6. :** *The thermometer reads 20° below.* Тэрмометр паказвае мінус 20°. ♦ **read between the lines** чыта́ць памі́ж радко́ў; **read smb.'s hand/palm** варажы́ць каму́-н. па руцэ́/дало́ні; **read smb.'s mind/thoughts** чыта́ць чужы́я ду́мкі

**read⁴** [red] *past, p.p.* → **read³**

**readable** [ˈriːdəbl] *adj.* **1.** ціка́вы, до́бра напі́саны (*пра кнігу*); **a highly readable book** захапля́льная кні́га **2.** чытэ́льны; выра́зны; **readable handwriting** разбо́рлівы по́чырк

**readdress** [ˌriːəˈdres] *v.* **1.** пераадрасо́ўваць (*карэспандэнцыю, інфармацыю*) **2.** зноў звярну́цца (*да каго-н.*); паўто́рна зада́ць пыта́нне (*каму-н.*)

**reader** [ˈriːdə] *n.* **1.** чыта́ч; *He is not much of a reader.* Ён мала чытае. **2.** хрэстама́тыя; кні́га для чыта́ння **3. Reader** дацэ́нт; **Reader in English Literature** дацэ́нт ка́федры англі́йскай літарату́ры **4.** *comput.* счы́твальнае прыстасава́нне; прагра́ма счы́твання

**readership** [ˈriːdəʃɪp] *n.* **1.** ко́ла чытачо́ў (*якія чытаюць пераважна часопісы і газеты*) **2.** *звыч.* **Readership** зва́нне, паса́да дацэ́нта; дацэнту́ра ў англі́йскіх універсітэ́тах

**readily** [ˈredɪli] *adv.* **1.** з гато́ўнасцю, ахво́тна **2.** ху́тка, адра́зу, без затры́мкі; *She is not readily moved to tears.* Яе нялёгка давесці да слёз.

**readiness** [ˈredinəs] *n.* **1.** падрыхтава́насць, гато́ўнасць; **have everything in readiness** трыма́ць усё напагато́ве **2.** ахво́та, жада́нне

**reading** [ˈriːdɪŋ] *n.* **1.** чыта́нне; **teach reading and writing** навуча́ць чыта́нню і пісьму́; **reading glasses** акуля́ры для чыта́ння; **a reading lamp** насто́льная ля́мпа; **a reading list** рэкамендацы́йны спіс літарату́ры **2.** публі́чнае чыта́нне; ле́кцыя; дакла́д **3.** тлумачэ́нне; інтэрпрэта́цыя, разуме́нне; *What is your reading of the facts?* Як вы разумееце гэтыя факты? **4.** адлі́к (*па шкале*); паказа́нне (*вымяральнага прыбора*); **zero reading** нулявы́ адлі́к; *Thermometer readings were taken every two hours.* Паказанні тэрмометра здымаліся кожныя дзве гадзіны. **5.** чыта́нне (*стадыя праходжання законапраекта*); **first reading** пе́ршае чыта́нне (*афіцыйнае ўнясенне законапраекта ў парламент*); **second reading** друго́е чыта́нне (*абмеркаванне законапраекта і рашэнні аб яго адхіленні альбо далейшым разглядзе*); **third reading** трэ́цяе чыта́нне (*канчатковае прыняцце тэксту*); *The bill was rejected at the second reading.* Законапраект быў адхілены ў другім чытанні.

**reading room** [ˈriːdɪŋruːm ] *n.* чыта́льная за́ла (*у бібліятэцы*)

**readjust** [ˌriːəˈdʒʌst] *v.* **1.** перарабляць, змяняць; прыводзіць у парадак; папраўляць **2.** **(to)** зноў прыстасоўваць; прыстасоўвацца; прыганяць, прыладжваць; **readjust oneself to civil life** прыстасавацца да цывільнага жыцця (*пасля войска*)

**readjustment** [ˌriːəˈdʒʌstmənt] *n.* перабудова, рэарганізацыя; прывядзенне ў парадак; *Some readjustment must be made in the accounts.* Трэба зрабіць некаторыя пераразлікі.

**ready**[1] [ˈredi] *n.* **the ready** *BrE, infml* наяўныя грошы, наяўнасць, гатоўка ♦ **have smth. at the ready** мець/трымаць што-н. напагатове

**ready**[2] [ˈredi] *adj.* **1.** гатовы; падрыхтаваны, прыгатаваны; **ready for use** гатовы да ўжывання; **ready for the press** гатовы да друку (*пра рукапіс*); *The car is ready at the door.* Аўтамабіль чакае каля пад'езда. **2.** які праяўляе ахвоту; гатовы, згодны; *We are ready to go anywhere.* Мы гатовыя паехаць куды хочаш. **3.** які маецца напагатове, пад рукой; *He is a ready speaker.* Ён умее выступаць экспромтам. ♦ **make ready (for smth.)** *fml* падрыхтавацца (да чаго-н.)

**ready**[3] [ˈredi] *v.* **(for)** рыхтаваць

**ready-made** [ˌredɪˈmeɪd] *adj.* **1.** гатовы (*пра ежу*) **2.** збіты, неарыгінальны, трывіяльны; **ready-made opinions** шаблонныя погляды; **ready-made phrases** збітыя фразы

**ready-to-wear** [ˌreditəˈweə] *adj.* гатовы (*пра адзенне*)

**reaffirm** [ˌriːəˈfɜːm] *v.* (*зноў*) пацвярджаць

**reagent** [riˈeɪdʒənt] *n. chem.* рэактыў; рэагент

**real** [ˈriːəl,ˈrɪəl] *adj.* **1.** які рэальна існуе; сапраўдны, рэальны; **real events** рэальныя падзеі; **in real life** у рэальным жыцці **2.** натуральны; **real silk** натуральны шоўк **3.** непадроблены, непрытворны, шчыры; **a real friend** сапраўдны сябар; *He has a real interest in art.* Ён пасапраўднаму цікавіцца мастацтвам; *She is such a real person.* У ёй няма ні кроплі прытворства. ♦ **for real** не на жарт; **the real thing** сапраўдная рэч; першакласны твор; тое, што трэба

**real estate** [ˈriːəlɪˌsteɪt] *n.* нерухомая маёмасць, нерухомасць

**realign** [ˌriːəˈlaɪn] *v.* **1.** перабудоўваць, рэканструяваць **2.** **: realign oneself (with smb./smth.)** перамяніць (*пра думку, погляд і да т.п.*)

**realignment** [ˌriːəˈlaɪnmənt] *n.* перабудова

**realism** [ˈriːəlɪzəm] *n.* **1.** рэалізм (*навуковы погляд на рэчы, з'явы*) **2.** (*таксама* **Realism**) рэалізм (*творчы метад у літаратуры і мастацтве*)

**realist** [ˈriːəlɪst] *n.* рэаліст; рэалістка

**realistic** [ˌriːəˈlɪstɪk] *adj.* **1.** рэалістычны; *His view of life is very realistic.* Ён глядзіць на жыццё без ілюзій. **2.** практычны, прагматычны; *Let's be realistic.* Давайце падыдзем да пытання практычна. **3.** рэалістычны; натуралістычны; **a realistic novel** рэалістычны раман

**reality** [riˈæləti] *n.* рэальнасць, рэчаіснасць ♦ **in reality** фактычна, на самай справе

**realizable,** *BrE* **-isable** [ˈriːəlaɪzəbl] *adj.* **1.** ажыццявімы, здзяйсняльны; рэальны; **realizable goals** ажыццявімыя мэты **2.** які можа быць прададзены; ліквідны, які лёгка рэалізуецца

**realization,** *BrE* **-isation** [ˌriːəlaɪˈzeɪʃn] *n.* **1.** ажыццяўленне, выкананне; рэалізацыя; **the realization of one's hopes** ажыццяўленне спадзяванняў **2.** усведамленне; разуменне; **have a true realization of danger** добра ўсведамляць небяспеку

**realize,** *BrE* **-ise** [ˈriːəlaɪz] *v.* **1.** ажыццяўляць, здзяйсняць; выконваць, рэалізоўваць **2.** уяўляць сабе, разумець; усведамляць; *We realized our mistake at once.* Мы адразу зразумелі сваю памылку. **3.** рэалізоўваць, прадаваць, ператвараць у грошы

**really** [ˈriːəli, ˈrɪəli] *adv.* **1.** сапраўды; на самай справе; па-сапраўднаму; *What really happened?* Што на самай справе здарылася? **2.** вельмі, надта; надзвычай; **a really hot day** вельмі гарачы дзень

**realm** [relm] *n.* **1.** галіна, сфера; абсяг; **the realm of science** сфера навукі **2.** *fml* каралеўства, дзяржава; **the laws of the realm** законы каралеўства; дзяржаўныя законы ♦ **beyond/within the realms of possibility** па-за межамі/у межах магчымага

**realtor** [ˈriːəltə] *n. AmE* рыэлтар, агент па продажы нерухомасці

**reanimate** [riːˈænɪmeɪt] *v.* рэанімаваць, ажыўляць

**reap** [riːp] *v.* **1.** жаць; збіраць ураджай; **reap wheat** жаць пшаніцу **2.** пажынаць (*плады чаго-н.*); заслугоўваць (*што-н.*); **reap glory** заслужыць славу; *Don't let others reap the benefits of your research.* Не дазваляйце іншым карыстацца плёнам вашай працы. ♦ **reap a/the harvest** *BrE* пажынаць плады; **reap where one has not sown** пажынаць плады чужой працы

**reaper** [ˈriːpə] *n.* **1.** жнец; жняя **2.** жняярка

**reappear** [ˌriːəˈpɪə] *v.* з'яўляцца зноў, узнікаць; адраджацца; *They felt tense knowing that he might reappear at any time.* Яны адчувалі на-

пружанасць, ведаючы, што ён можа зноў з'явіцца ў любы час.

**rear**[1] [rɪə] *n.* (*звыч.* **the rear**) **1.** тыл; **in the rear** у ты́ле **2.** за́дні/ты́льны бок; **the rear of the house** за́дняя ча́стка до́ма

**rear**[2] [rɪə] *adj.* за́дні, разме́шчаны ззаду; ты́льны

**rear**[3] [rɪə] *v.* **1.** гадава́ць, расці́ць; *She reared a large family.* Яна выгадавала вялікую сям'ю. **2.** узніка́ць, падыма́цца (*пра будынак, гару*) **3.** разво́дзіць, выро́шчваць; выво́дзіць (*жывёлу*); **rear poultry** займа́цца птушкагадо́ўляй **4. (up)** уста́ць на дыбкі́ (*пра жывёліну*) ♦ **smth. rears its (ugly) head :** *Jealousy reared its head.* Заварушылася рэўнасць.

**rearm** [riˈɑːm] *v.* пераўзбро́йваць; пераўзбро́йвацца; *They rearmed their allies with modern missiles.* Яны пераўзброілі сваіх саюзнікаў сучаснымі ракетамі.

**rearmament** [riˈɑːməmənt] *n.* пераўзбрае́нне

**rearrange** [ˌriːəˈreɪndʒ] *v.* перастаўля́ць, перасо́ўваць (*у розных знач.*); *Let's rearrange the furniture.* Давайце пераставім мэблю; *Let's rearrange the party for Saturday.* Давайце перанясём вечарыну на суботу.

**rearrangement** [ˌriːəˈreɪndʒmənt] *n.* перастано́ўка, перагрупо́ўка; перагрупо́ўванне

**rear-view mirror** [ˌrɪəvjuːˈmɪrə] *n.* люстэ́рка за́дняга агля́ду

**rearward** [ˈrɪəwəd] *adj. fml* за́дні; ты́льны

**reason**[1] [ˈriːzn] *n.* **1.** прычы́на, падста́ва; **with reason** абгрунтава́на; **for no good reason** без ува́жлівай прычы́ны; *She had a reason for laughing.* У яе была прычына пасмяяцца. **2.** ро́зум, інтэле́кт; **only man has reason** то́лькі чалаве́к – істо́та разу́мная; **lose one's reason** звар'яце́ць, з глу́зду з'е́хаць **3.** разва́жнасць, разва́жлівасць; **listen to reason** прыслу́хацца да го́ласу ро́зуму ♦ **it stands to reason** *infml* відаво́чна, зразуме́ла; цвяро́зы ро́зум падка́звае

**reason**[2] [ˈriːzn] *v.* ду́маць, меркава́ць; дака́зваць
**reason out** [ˌriːznˈaʊt] *phr.v.* разважа́ць, рабіць высно́вы
**reason with** [ˌriːznˈwɪθ] *phr.v.* угаво́рваць, перако́нваць; *It is useless to reason with him.* Няма ніякага сэнсу яго пераконваць.

**reasonable** [ˈriːznəbl] *adj.* **1.** разва́жны, разва́жлівы; **a reasonable solution** разу́мнае рашэ́нне **2. :** *She has a reasonable chance of doing well in the exam.* У яе ёсць нядрэнная магчымасць паспяхова здаць экзамены. **3.** уме́раны, дапушча́льны; **on reasonable terms** на пры́ма́льных умо́вах **4.** недарагі́; **a reasonable price** уме́раная/схо́дная цана́

**reasonably** [ˈriːznəbli] *adv.* **1.** разу́мна, разва́жна, разва́жліва; *Despite her anger, she had behaved reasonably.* Нягледзячы на злосць, яна паводзіла сябе разумна. **2.** уме́рана, дапушча́льна; даво́лі; **reasonably well** даво́лі до́бра

**reasoned** [ˈriːzənd] *adj.* абгрунтава́ны, аргументава́ны, матывава́ны; **reasoned refusal** матыва́ваная адмо́ва; **a reasoned diet** рацыяна́льная дые́та

**reasoning** [ˈriːzənɪŋ] *n.* развража́нне; лагі́чны ход ду́мкі; аргумента́цыя; **powers of reasoning** здо́льнасць разважа́ць; *There is no reasoning with her.* Яе не пераканаеш.

**reassurance** [ˌriːəˈʃʊərəns] *n.* **1.** уцяшэ́нне, суцяшэ́нне; супако́йванне, падбадзёрванне **2.** (паўто́рнае) запэ́ўненне; пацвярджэ́нне

**reassure** [ˌriːəˈʃʊə] *n.* **(about)** упэ́ўніваць, запэ́ўніваць, перако́нваць; *I felt reassured.* Я адчуваў сябе больш упэўнена.

**reassuring** [ˌriːəˈʃʊərɪŋ] *adj.* супако́йлівы; суцяша́льны, які́ падбадзёрвае; *They hoped to get reassuring news.* Яны спадзяваліся атрымаць суцяшальныя весткі.

**reawaken** [ˌriːəˈweɪkən] *v.* абуджа́ць

**rebate** [ˈriːbeɪt] *n.* дыско́нт, скі́дка

**rebel**[1] [ˈrebl] *n.* **1.** мяце́жнік, паўста́нец **2.** бунта́р, бунтаўшчы́к; *Tom has always been the rebel of the family.* З Томам у сям'і няма ніякай рады.

**rebel**[2] [rɪˈbel] *v.* **1. (against)** пратэстава́ць, ака́зваць супраціўле́нне; процідзе́йнічаць **2.** падыма́ць мяце́ж; паўстава́ць, бунтава́ць

**rebellion** [rɪˈbeljən] *n.* **1. (against)** паўста́нне, мяце́ж, бунт; **an armed rebellion** узбро́енае паўста́нне **2.** адкры́тае непадпара́дкаванне, супраціўле́нне, процідзе́янне (*чаму-н.*)

**rebellious** [rɪˈbeljəs] *adj.* **1.** паўста́нцкі, мяце́жны, бунта́рскі **2.** непако́рны, непако́рлівы; недысцыплінава́ны; **a rebellious teenager** падле́так, яко́му не́льга даць ра́ды

**rebirth** [ˌriːˈbɜːθ] *n.* адраджэ́нне

**reboot**[1] [ˌriːˈbuːt] *n. comput.* перазагру́зка; пераза́пуск

**reboot**[2] [ˌriːˈbuːt] *v. comput.* перазагружа́ць; перазапуска́ць

**reborn**[1] [ˌriːˈbɔːn] *adj.* адро́джаны; той хто атрыма́ў но́вае жыццё

**reborn**[2] [ˌriːˈbɔːn] *v.* **: be reborn 1.** зноў нара́дзіцца **2.** зноў стаць акты́ўным або́ папуля́рным

**rebound**[1] [ˈriːbaʊnd] *n.* адско́к; адда́ча; рыкашэ́т ♦ **on the rebound** ад адча́ю, ад безвыхо́днасці

**rebound**[2] [rɪˈbaʊnd] *v.* **1. (from/off)** адско́кваць; рыкашэ́ціць; *The ball rebounded off the wall, and I caught it.* Мяч адскочыў ад сцяны, і я

злавіў яго. **2.** *fml* **(on)** прыво́дзіць да адваро́тнага вы́ніку

**rebuff¹** [rɪˈbʌf] *n. fml* адпо́р; рэ́зкая/катэгары́чная адмо́ва; *Every attempt John made to befriend her was met with a rebuff.* Усе спробы Джона дапамагчы ёй сустрэлі катэгарычны адпор.

**rebuff²** [rɪˈbʌf] *v.* дава́ць адпо́р; рэ́зка або́ знява́жліва адхіля́ць (*прапанову, дапамогу і да т.п.*); рашу́ча адмаўля́ць

**rebuild** [ˌriːˈbɪld] *v.* **(rebuilt)** будава́ць зноў; аднаўля́ць, адбудо́ўваць; **rebuild a war-torn city** адбудава́ць пацярпе́лы ад вайны́ го́рад

**rebuke¹** [rɪˈbjuːk] *n. fml* **1.** папро́к, дако́р; **without rebuke** бездако́рны, беззага́нны **2.** вымо́ва; заўва́га

**rebuke²** [rɪˈbjuːk] *v. fml* **1. (for)** папрака́ць, дакара́ць, вінава́ціць **2.** рабі́ць вымо́ву/заўва́гу; дава́ць нагання́й

**rebut** [rɪˈbʌt] *v. fml* абвярга́ць, адхіля́ць (*абвінавачанне, нападкі і да т.п.*); *Do you think they will rebut our offer?* Ты лічыш, яны адхіляць нашу прапанову?

**recalcitrance** [rɪˈkælsɪtrəns] *n.* непако́рнасць, непако́рлівасць

**recalcitrant¹** [rɪˈkælsɪtrənt] *n. fml* непако́рны, непако́рлівы, упа́рты чалаве́к

**recalcitrant²** [rɪˈkælsɪtrənt] *adj. fml* **1.** непако́рны, непако́рлівы, непаслухмя́ны; **a recalcitrant child** непаслухмя́нае дзіця́ **2.** непада́тлівы, непада́тны; **recalcitrant forms of disease** фо́рмы хваро́бы, які́я не паддаю́цца лячэ́нню

**recall¹** [rɪˈkɔːl,ˈriːkɔːl] *n. fml* **1.** прыпаміна́нне **2.** адкліка́нне (*дэпутата, пасла і да т.п.*); **letters of recall** адзыўны́я гра́маты **3.** пра́ва вярну́цца ♦ **beyond recall** непапра́ўны, незваро́тны; канчатко́ва забы́ты

**recall²** [rɪˈkɔːl] *v.* **1.** *fml* успаміна́ць, прыпаміна́ць, узга́дваць; *We recalled the words of the song.* Мы ўспомнілі словы песні. **2.** адкліка́ць (*дэпутата, пасла*); *The Ambassador was recalled from Washington.* Пасла адклікалі з Вашынгтона. **3.** браць наза́д (няя́касныя рэ́чы)

**recant** [rɪˈkænt] *v. fml* адрака́цца, адмаўля́цца ад сваі́х по́глядаў або́ перакана́нняў; публі́чна ка́яцца ў сваі́х памы́лках; *He recanted his promise.* Ён адмовіўся ад свайго абяцання.

**recapitulate** [ˌriːkəˈpɪtʃuleɪt] *v. fml* **(on)** коратка паўтара́ць, пералі́чваць; рэзюмава́ць, падсумо́ўваць

**recapture¹** [ˌriːˈkæptʃə] *n.* **1.** узя́цце наза́д (*горада, крэпасці і да т.п.*) **2.** зло́ўлены ўцякач

**recapture²** [ˌriːˈkæptʃə] *v.* **1.** узя́ць наза́д; захапі́ць зноў **2.** злаві́ць (*уцекача*) **3.** перажыва́ць зноў; *He was trying to recapture the past.* Ён спрабаваў аднавіць мінулае.

**recast** [ˌriːˈkɑːst] *v.* **(recast)** перарабля́ць, перапрацо́ўваць; надава́ць но́вую фо́рму; *He recast his political image to fit the times.* Ён відазмяніў сваё палітычнае аблічча ў адпаведнасці з патрабаваннямі часу.

**recede** [rɪˈsiːd] *v.* **1.** адступа́ць, падава́цца (*назад*); **recede a few paces** зрабі́ць не́калькі кро́каў назад **2.** убыва́ць (*пра пачуцці, праблемы*) **3.** радзе́ць (*пра валасы*)

**receipt** [rɪˈsiːt] *n.* **1. (for)** чэк; распі́ска ў атрыма́нні; квіта́нцыя; **a receipt for a sum** распі́ска ў атрыма́нні пэ́ўнай су́мы **2.** *fml* **(of)** атрыма́нне

**receivable** [rɪˈsiːvəbl] *adj. comm.* го́дны да прыня́цця; прыма́льны

**receive** [rɪˈsiːv] *v.* **1.** атры́мліваць (*у розных знач.*); **receive information** атры́мліваць інфарма́цыю; *We received numerous complaints about the airport noise.* Мы атрымалі шматлікія скаргі на шум аэрапорта; **receive severe injuries** быць жо́рстка збі́тым **2.** прыма́ць (*гасцей, наведвальнікаў*)

**received** [rɪˈsiːvd] *adj. fml* агульнапрыня́ты, агульнапрызна́ны; **the received view** агульнапрыня́тае меркава́нне

**received pronunciation** [rɪˌsiːvdprəˌnʌnsiˈeɪʃn] *n.* нарматы́ўнае вымаўле́нне (*брытанскага варыянта англійскай мовы*)

**received standard** [rɪˌsiːvdˈstændəd] *n.* нарматы́ўнае вымаўле́нне (*брытанскага варыянта англійскай мовы*)

**receiver** [rɪˈsiːvə] *n.* **1.** тэлефо́нная тру́бка, слу́хаўка; **pick up/lift a receiver** падня́ць тру́бку **2.** ра́дые- або́ тэлепрыёмнік **3.** атрыма́льнік **4.**ску́пшчык кра́дзенага

**recent** [ˈriːsnt] *adj.* нядаўні, апо́шні; но́вы, све́жы; *In recent years terrorism has a greater threat.* За апошнія гады тэрарызм стаў уяўляць сабой яшчэ большую пагрозу.

**recently** [ˈriːsntli] *adv.* няда́ўна, днямі; за апо́шні час

**reception** [rɪˈsepʃn] *n.* **1.** рэцэ́пцыя **2. : a reception clerk** рэгістра́тар, дзяжу́рны; **a reception desk** рэгістрату́ра (*у медыцынскай установе*); рэгістра́цыя (*у гатэлі*) **3.** сустрэ́ча, прыём (*гасцей, афіцыйных прадстаўнікоў і да т.п.*); **a state reception** урачы́сты прыём; **a warm reception** цёплы прыём; **give smb. a kind/an unfriendly reception** сустрэ́ць каго́-н. ве́тліва/непрыя́зна **4.** прыём, прыня́цце, прыма́нне (*радые- або телесігналаў*)

**receptionist** [rɪˈsepʃənɪst] *n.* сакратáр, які́ вядзé прыём навéдвальнікаў; рэгістрáтар (*у паліклініцы*); парцьé (*у гатэлі*)

**reception room** [rɪˈsepʃnruːm] *n.* **1.** прыёмная **2.** *BrE* гасці́ная; *The house has three bedrooms, a large kitchen and two reception rooms.* У доме тры спальні, вялікая кухня і дзве гасціныя.

**receptive** [rɪˈseptɪv] *adj.* **(to)** успры́млівы, успрымáльны; **receptive to new ideas** успры́млівы да нóвых ідэ́й

**receptivity** [ˌriːsepˈtɪvəti] *n.* успры́млівасць, успрымáльнасць

**receptor** [rɪˈseptə] *n. physiol.* рэцэ́птар

**recess**[1] [rɪˈses] *n.* **1.** перапы́нак у рабóце абó пасяджэ́нні (*парламента, міжнароднай арганізацыі і да т.п.*); **Parliament's summer recess** парлáменцкія лéтнія канікулы **2.** *AmE* перапы́нак у школе **3.** паглыблéнне (*у сцяне*); нíша **4.** (*звыч. pl.* **recesses**) тайнíк; зацíшны кутóчак; **in the recesses of the heart** у глыбіні́ душы́

**recess**[2] [rɪˈses] *v.* рабíць перапы́нак (*у рабоце, пасяджэнні*)

**recession** [rɪˈseʃn] *n.* рэцэ́сія, спад; **business recession** спад дзелавóй акты́ўнасці; **economic recession** эканамі́чны спад

**recharge** [rɪˈtʃɑːdʒ] *v.* **1.** перазараджáць (*батарэйку*) **2.** аднаўля́ць сíлы

**recidivism** [rɪˈsɪdɪvɪzəm] *n.* рэцыды́ў

**recidivist** [rɪˈsɪdɪvɪst] *n. fml* рэцыдывíст; рэцыдывíстка

**recipe** [ˈresəpi] *n.* **(for)** рэцэ́пт (*у розных знач.*); **a recipe book** кулінáрная кнíга; **a recipe for tomato soup** рэцэ́пт тамáтнага сýпу; **a recipe for success** сакрэ́т пóспеху

**recipient** [rɪˈsɪpiənt] *n.* атрымáльнік

**reciprocal** [rɪˈsɪprəkl] *adj.* узаéмны; **reciprocal understanding** узаемаразумéнне; **reciprocal affection** узаéмная прыхíльнасць; *Such treaties provide reciprocal rights and obligations.* Такія пагадненні забяспечваюць узаемныя правы і абавязкі.

**reciprocate** [rɪˈsɪprəkeɪt] *v.* **1.** адкáзваць; адплáчваць; *I cannot accept his generosity – I am not in a position to reciprocate.* Я не магу прыняць яго шчодрасць – я не ў стане адплаціць. **2.** адкáзваць узаéмнасцю; *Jane had fallen in love with Dan, but her affection was not reciprocated.* Джэйн закахалася ў Дэна, але ён не адказаў ёй узаемнасцю.

**reciprocity** [ˌresɪˈprɒsəti] *n. fml* узаéмнасць; абмéн (*паслугамі, ветлівасцю*); узаемадзéянне

**recital** [rɪˈsaɪtl] *n.* **1.** вы́клад, апóвед, раскáзванне; *Fred launched into a long recital of his adventures.* Фрэд пусціўся ў падрабязнае апісанне сваіх прыгод. **2.** канцэ́рт аднагó выканáўцы, сóльны канцэ́рт

**recitation** [ˌresɪˈteɪʃn] *n.* **1.** дэкламáцыя; публі́чнае чытáнне (*вершаў*) **2.** падрабя́зны раскáз; пералічэ́нне фáктаў; **the recitation of one's woes** падрабя́зны раскáз пра своé няшчáсці

**recitative**[ˌresɪtəˈtiːv] *n.* рэчытаты́ў

**recite** [rɪˈsaɪt] *v.* **(to) 1.** дэкламавáць, чытáць угóлас (*вершы*) **2.** падрабя́зна раскáзваць; пералі́чваць (*факты і да т.п.*)

**reckless** [ˈrekləs] *adj.* безразвáжны, неразвáжлівы; неасцярóжны

**reckon** [ˈrekən] *v.* **1.** лічы́ць, падлі́чваць; **learn to read, write and reckon** навучы́цца чытáць, пісáць і лічы́ць **2.** *infml* разглядáць, лічы́ць; **reckon smb. wise** лічы́ць кагó-н. разýмным; *Do you reckon they'll get married?* Вы лічыце, што яны пажэняцца?

**reckon in** [ˌrekənˈin] *phr.v.* уключáць; улі́чваць; *Have you reckoned in the cost of postage?* Вы ўключылі кошт перасылкі?

**reckon off** [ˌrekənˈɒf] *phr.v.* аднімáць, рабíць скі́дку

**reckon on** [ˌrekənˈɒn] *phr.v.* разлі́чваць, спадзявáцца; *We had reckoned on having good weather.* Мы спадзяваліся на добрае надвор'е.

**reckon up** [ˌrekənˈʌp] *phr.v.* ацэ́ньваць, рабíць ацэ́нку; падлі́чваць; *Can you reckon up the money we've made?* Ты можаш падлічыць грошы, якія мы зарабілі?

**reckon with** [ˌrekənˈwɪð] *phr.v.* браць пад увáгу; лічы́цца (*з кім-н./чым-н.*); *He is a doughty opponent and one to be reckoned with.* Гэта магутны праціўнік, і з ім трэба лічыцца.

**reckoning** [ˈrekənɪŋ] *n.* **1.** лік, вылічэ́нне; разлі́к; **be good at reckoning** дóбра лічы́ць **2.** меркавáнне; **by my reckoning** па маі́м разлі́ку; на мой пóгляд; **make no reckoning of smth.** не ўлі́чваць чагó-н.; не прымáць у разлі́к штó-н.; не прыдавáць значэ́ння чамý-н. **3.** расплáта (*перан.*)

**reclaim** [rɪˈkleɪm] *v.* **(from) 1.** патрабавáць назáд; **reclaim lost property** патрабавáць назáд стрáчаную маёмасць **2.** асвóйваць; вяртáць для ўжы́тку **3.** утылізавáць

**recline** [rɪˈklaɪn] *v.* **1. (against/in/on)** адкідáцца назáд; *The girl was reclining on a deckchair.* Дзяўчына паўляжала ў шэзлонгу. **2.** адкíдваць назáд; **a reclining seat** адкіднóе сядзéнне

**recliner chair** [rɪˈklaɪnəˌtʃeə] *n.* (*таксама* **recliner**) шэзлóнг

**recluse** [rɪˈkluːs] *n.* пустэ́льнік; пустэ́льніца

**recognition** [ˌrekəgˈnɪʃn] *n.* **1.** пазнава́нне, апазнава́нне; *My recognition of him was immediate.* Я адразу пазнаў яго. **2.** прызна́нне, адабрэ́нне; **international/official recognition** міжнаро́днае/афіцы́йнае прызна́нне; **in recognition of** у знак прызна́ння; *She won no recognition.* Яна не атрымала прызнання. ♦ **beyond/out of (all) recognition** да непазнава́льнасці

**recognize,** *BrE* **-ise** [ˈrekəgnaɪz] *v.* **1.** распазнава́ць, пазнава́ць **2.** афіцы́йна прызнава́ць; *He was recognized as the lawful heir.* Ён быў прызнаны законным наследнікам.

**recoil**[1] [ˈriːkɔɪl] *n.* адско́к; аддача

**recoil**[2] [rɪˈkɔɪl] *v.* **1. (from, at)** адско́чыць; адхіну́цца, адхілі́цца; адступі́ць (на не́калькі кро́каў) **2.** аддава́ць (*пры стральбе*)

**recollect** [ˌrekəˈlekt] *v. fml* успаміна́ць; прыпаміна́ць; **as far as I recollect** нако́лькі я па́мятаю

**recollection** [ˌrekəˈlekʃn] *n.* па́мяць, успамі́н; **vivid recollection** я́ркі ўспамі́н; **to the best of my recollection** нако́лькі я по́мню; **within my recollection** на маёй па́мяці; *I have no recollection of ever having received the money from him.* Я не памятаю, каб калі-небудзь атрымліваў грошы ад яго.

**recommence** [ˌriːkəˈmens] *v.* зноў пачына́ць; аднаўля́ць; аднаўля́цца

**recommencement** [ˌriːkəˈmensmənt] *n.* узнаўле́нне; **recommencement of the game** *sport* узнаўле́нне гульні́

**recommend** [ˌrekəˈmend] *v.* **1.** рэкамендава́ць, ра́іць; *I was recommended to say nothing.* Мне параілі памаўчаць. **2.** рэкамендава́ць, дава́ць рэкаменда́цыю; *I would recommend Mr. Thomson for the position of Assistant Manager.* Я б рэкамендаваў спадара Томсана на пасаду памочніка дырэктара.

**recommendation** [ˌrekəmenˈdeɪʃn] *n.* **1.** рэкаменда́цыя, пара́да; **make recommendations** дава́ць рэкаменда́цыі **2.** рэкаменда́цыя, пахвала́, стано́ўчы во́дзыў; **a letter of recommendation** рэкамендацы́йнае пісьмо́ **3.** рэкаменда́цыя (*на пасаду*)

**recompense**[1] [ˈrekəmpens] *n. fml* **(for)** кампенса́цыя, адпла́та; узнагаро́да (*за працу*); **work without recompense** працава́ць без узнагаро́ды; **in recompense for help** ва ўзнагаро́ду за дапамо́гу

**recompense**[2] [ˈrekəmpens] *v. fml* **(for) 1.** кампенсава́ць; **be recompensed for losses** атрыма́ць кампенса́цыю за стра́ты **2.** узнагаро́джваць (*за працу*); **recompense for services** узнагаро́дзіць за паслу́гі

**reconcile** [ˈrekənsaɪl] *v.* **1. (with)** міры́ць; паміры́ць, прыміры́ць; *Friends managed to reconcile him with his wife.* Сябрам удалося пamірыць яго з жонкай. **2.** ула́джваць, урэгулёўваць; **reconcile quarrels** ула́джваць сва́ркі **3. (with)** прыво́дзіць у адпаве́днасць; узгадня́ць; **reconcile duty with pleasure** сумяшча́ць абавя́зкі і задавальне́нне **4.** скара́цца, прымі-ра́цца; **reconcile to smth.** прыміры́цца з чым-н.; **reconcile oneself to one's fate** скары́цца сваймý лёсу

**reconciliation** [ˌrekənsɪliˈeɪʃn] *n.* прымірэ́нне; **a reconciliation between countries** прымірэ́нне памі́ж краі́намі

**reconsider** [ˌriːkənˈsɪdə] *v.* перагляда́ць, мяня́ць (*рашэнне, планы і да т.п.*); перадýмаць; *He wants you to reconsider your decision.* Ён хацеў бы, каб вы памянялі сваё рашэнне.

**reconsideration** [ˌriːkənˌsɪdəˈreɪʃn] *n.* перагля́д, пераме́на, паўто́рнае абмеркава́нне (*рашэння, планаў і да т.п.*); *You should give the matter careful reconsideration.* Трэба зноў дэталёва абмеркаваць гэтае пытанне.

**reconstruct** [ˌriːkənˈstrʌkt] *v.* **1.** рэканструява́ць, перабудо́ўваць **2.** аднаўля́ць, узнаўля́ць (*падзеі*); *Police are trying to reconstruct the events of last Friday.* Паліцыя спрабуе ўзнавіць падзеі апошняй пятніцы.

**reconstruction** [ˌriːkənˈstrʌkʃn] *n.* **1.** рэканстру́кцыя, перабудо́ва; аднаўле́нне; **a reconstruction period** перы́яд аднаўле́ння; *The reconstruction of the town began in 1945.* Перабудова горада пачалася ў 1945 годзе. **2.** прыпаміна́нне, узнаўле́нне (*фактаў, падзей*)

**record**[1] [ˈrekɔːd] *n.* **1.** за́піс; улі́к; **medical records of a patient** гісто́рыя хваро́бы; **a criminal record** дасье́ злачы́нца **2.** ле́тапіс **3.** грампласці́нка **4.** рэко́рд; **break a record** пабі́ць рэко́рд ♦ **off the record** канфідэнцыя́льны, неафіцы́йны; **put/place smth. on (the) record** заяві́ць; адзна́чыць, канстатава́ць; зафіксава́ць што-н.; **put/set the record straight** уне́сці я́снасць

**record**[2] [rɪˈkɔːd] *v.* **1.** рэгістрава́ць, фіксава́ць; пратакалі́раваць; зано́сіць у спіс/рэ́естр; **record the days' events** запіса́ць падзе́і дня; *The expedition recorded over 500 new species of plants.* Экспедыцыя зарэгістравала звыш 500 новых відаў раслін. **2.** запі́сваць на плёнку/пласці́нку і да т.п.; *The gramophone has recorded his voice.* Яго голас запісаны на грамафонную пласцінку.

**record-breaker** [ˈrekɔːdˌbreɪkə] *n. sport* рэкардсме́н; рэкардсме́нка

**recorder** [rɪˈkɔːdə] *n.* **1.** магнітафо́н **2.** рэгістра́тар

**record-holder** [ˈrekɔːdˌhəʊldə] *n. sport* ула́дальнік рэко́рду, рэкардсме́н; рэкардсме́нка

**recording** [rɪˈkɔːdɪŋ] *n.* **1.** гуказа́піс; відэаза́піс **2.** рэгістра́цыя, за́піс; **cinematographic recording** кіназды́мка; **a recording studio** сту́дыя гуказа́пісу

**recordist** [rɪˈkɔːdɪst] *n.* гукааперáтар

**record player** [ˈrekɔːdˌpleɪə] *n.* прайграва́льнік

**recount¹** [ˈriːkaʊnt] *n.* пералі́к, паўто́рнае падлі́чванне (*асабліва галасоў на выбарах*)

**recount²** [ˌriːˈkaʊnt] *v.* пералі́чваць (*асабліва галасы на выбарах*)

**recount³** [ˌrɪˈkaʊnt] *v.* **(to)** раска́зваць; падрабя́зна тлума́чыць

**recoup** [rɪˈkuːp] *v.* кампенсава́ць, пакрыва́ць стра́ты; **recoup one's losses** вярта́ць стра́чанае

**recover** [rɪˈkʌvə] *v.* **1. (from)** ачу́ньваць; папраўля́цца, здараве́ць; *After a few days of fever he began to recover.* Пасля некалькіх дзён гарачкі ён пачаў папраўляцца. **2.** атры́мліваць наза́д, вярта́ць сабе́; адваёўваць; *Police have so far failed to recover the stolen jewelry.* Паліцыя дагэтуль так і не змагла вярнуць украдзеныя каштоўнасці.

**recovery** [rɪˈkʌvəri] *n.* **1. (from)** ачу́ньванне, папра́ўка, вылячэ́нне; *She made a quick recovery from the flue.* Яна хутка папраўлялася пасля грыпу. **2.** аднаўле́нне, ажыўле́нне; **an economic recovery** эканамі́чнае аднаўле́нне; **a recovery of business** ажыўле́нне дзелаво́й акты́ўнасці **3.** вярта́нне, пакрыццё страт

**recovery room** [rɪˈkʌvəriˌruːm] *n. med. таксама* **recovery** пасляаперацы́йная пала́та

**recreate** [ˌriːkriˈeɪt] *v.* узнаўля́ць, аднаўля́ць

**recreation** [ˌrekriˈeɪʃn] *n.* рэкрэа́цыя, адпачы́нак; аднаўле́нне сіл; заба́ва; **recreation on the landscape** адпачы́нак на прыро́дзе; *Gardening is a recreation.* Работа ў садзе – адпачынак.

**recreation room** [ˌrekriˈeɪʃnˌruːm] *n.* **1.** *AmE* пако́й у до́ме для гу́льняў, та́нцаў **2.** рэкрэацы́йная за́ла (*у бальніцы, школе і да т.п.*)

**recrimination** [rɪˌkrɪmɪˈneɪʃn] *n.* узае́мныя абвінава́чанні, папро́кі

**rec room** [ˈrekruːm] *AmE, infml* = **recreation room**

**recruit¹** [rɪˈkruːt] *n.* **1.** навабра́нец, прызыўні́к **2.** но́вы член, удзе́льнік (*арганізацыі, таварыства, суполкі*)

**recruit²** [rɪˈkruːt] *v.* вербава́ць, набіра́ць (*навабранцаў, членаў арганізацый*); *Most of the men in the village were recruited that day.* У той дзень завербавалі большасць мужчын у вёсцы.

**rectangle** [ˈrektæŋgl] *n.* прамавуго́льнік

**rectangular** [rekˈtæŋgjələ] *adj.* прамавуго́льны

**rectify** [ˈrektɪfaɪ] *v. fml* папраўля́ць, выпраўля́ць; **rectify the situation** вы́правіць сіту́ацыю

**rector** [ˈrektə] *n.* **1.** прыхо́дскі свяшчэ́ннік; па́стар **2.** рэ́ктар (*універсітэта*); дырэ́ктар шко́лы (*у Вялікабрытаніі*)

**recur** [rɪˈkɜː] *v.* паўтара́цца; вярта́цца, адбыва́цца зноў; *A leap year recurs every four years.* Высакосны год бывае раз у чатыры гады; **a problem which recurs periodically** праблéма, што перыяды́чна ўзнікáе; *There is a danger that the disease may recur in future.* Ёсць небяспека, што хвароба можа паўтарыцца ў будучым.

**recurrence** [rɪˈkʌrəns] *n.* паўтарэ́нне; вярта́нне, рэцыды́ў; паўтара́льнасць; **a recurrence of an epidemic** но́вая ўспы́шка эпідэ́міі

**recurrent** [rɪˈkʌrənt] *adj.* **1.** які́ паўтара́ецца час ад ча́су, перыяды́чны; паўто́рны **2.** *med.* зваро́тны, рэцыды́ўны; **recurrent fever** зваро́тны тыф

**recycle** [ˌriːˈsaɪkl] *v.* перапрацо́ўваць; вярта́ць у абаро́т (*адходы вытворчасці*)

**red¹** [red] *n.* **1.** чырво́ны ко́лер; *She was dressed in red.* Яна была апранута ў чырвонае. **2.** чырво́нае віно́; **a nice bottle of red** бутэ́лька до́брага чырво́нага віна́ ♦ **be in the red** *infml* мець запазы́чанасць; **see red** *infml* раззлава́цца

**red²** [red] *adj. infml* **1.** чырво́ны; **a beautiful red rose** прыго́жая чырво́ная ру́жа; *We painted the door bright red.* Мы пафарбавалі дзверы ў ярка-чырвоны колер. **2.** ры́жы, руды́; **red hair** ры́жыя валасы́

**red-bearded** [ˌredˈbɪədɪd] *adj.* рудабаро́ды, рыжабаро́ды

**Red Cross** [ˌredˈkrɒs] *n.* **the Red Cross** Чырво́ны Крыж

**redcurrant** [ˌredˈkʌrənt] *n.* чырво́ныя парэ́чкі

**redden** [ˈredn] *v.* **1.** чырване́ць; заліва́цца румя́нцам; **redden with shame** пачырване́ць ад со́раму; **redden with rage** пачырване́ць ад зло́сці **2.** афарбо́ўваць у чырво́ны ко́лер

**reddish** [ˈredɪʃ] *adj.* чырванава́ты, рудава́ты, рыжава́ты

**redecorate** [ˌriːˈdekəreɪt] *v.* рабі́ць рамо́нт памяшка́ння (*фарбаваць, бяліць і да т.п.*)

**redecoration** [ˌriːˌdekəˈreɪʃn] *n.* рамо́нт памяшка́ння (*фарбаванне, пабелка*)

**redeem** [rɪˈdiːm] *v.* **1. : redeem a promise** вы́канаць абяца́нне **2.** выкупля́ць (*што-н.*) **3.** абмяня́ць што-н. на гро́шы або́ тава́ры

**redemption** [rɪˈdempʃn] *n.* **1.** **: redemption of a promise** выкана́нне абяца́ння **2.** вы́куп; **a redemption price** выкупна́я цана́ ♦ **beyond/past redemption** без надзе́і на выпраўле́нне, зусі́м прапа́шчы

**redevelop** [ˌriːdɪˈveləp] *v.* перабудо́ўваць; рэканструява́ць

**red-eye** [ˈredaɪ] *n. zool.* краснапёрка

**red-faced** [ˌredˈfeɪst] *adj.* **(with)** пачырване́лы; **red-faced with embarrassment** пачырване́лы ад збянтэ́жанасці

**red-head** [ˈredhed] *n.* руды́, рыжавало́сы чалаве́к

**red herring** [ˌredˈherɪŋ] *n.* вэ́нджаны селядзе́ц ♦ **draw a red-herring across the path** збіць з панталы́ку

**red-hot** [ˌredˈhɒt] *adj.* **1.** распа́лены дачы́рвана **2.** гара́чы, палымя́ны; разгара́чаны, па́лкі (*пра фантазію*); **a red-hot political campaign** жо́рсткая паліты́чная барацьба́ **3.** *infml* хвалю́ючы, но́вы, све́жы; **red-hot news** сенсацы́йнае паведамле́нне

**redial** [ˈriːdaɪəl] *v.* паўто́рна набіра́ць ну́мар тэлефо́на

**redirect** [ˌriːdəˈrekt] *v.* **(to)** **1.** пераадрасо́ўваць (*пісьмы, запыты і да т.п.*) **2.** перанацэ́льваць; пераарыенто́ўваць; *She was good at redirecting the children's energy to something useful.* Ёй добра ўдавалася перанакіроўваць дзіцячую энергію на што-небудзь карыснае.

**redistribute** [ˌriːdɪˈstrɪbjuːt] *v.* пераразмярко́ўваць

**redistribution** [ˌriːdɪstrɪˈbjuːʃn] *n.* пераразмеркава́нне

**red-letter day** [ˌredˈletədeɪ] *n.* незабы́ўны дзень; свя́та

**red-light district** [ˌredˈlaɪtˌdɪstrɪkt] *n.* кварта́л публі́чных дамо́ў

**red maple** [ˌredˈmeɪpl] *n. bot.* клён чырво́ны

**redolence** [ˈredələns] *n.* прые́мны во́дар, паху́часць, духмя́насць

**redolent** [ˈredələnt] *adj. lit.* **1.** прые́мны, ап' captя́льны (*пра водар*); духмя́ны, во́дарны **2.** **(of/with)** паху́чы, які́ мо́цна па́хне; *The air was redolent with roses.* У паветры стаяў водар руж.

**redouble** [ˌriːˈdʌbl] *v.* узмацня́ць; узмацня́цца; павялі́чваць; павялі́чвацца; падво́йваць; падво́йвацца; *He redoubled his efforts.* Ён падвоіў свае намаганні.

**red pepper** [ˌredˈpepə] *n. bot.* пе́рац чырво́ны

**redress¹** [rɪˈdres, ˈriːdres] *n. fml* **(for/against)** кампенса́цыя; *The only hope of redress is in a lawsuit.* Ёсць толькі адна надзея атрымаць кампенсацыю – праз суд.

**redress²** [rɪˈdres] *v. fml* **1.** выпраўля́ць **2.** пакрыва́ць, кампенсава́ць ♦ **redress the balance** аднаві́ць раўнава́гу; **redress a wrong** загла́дзіць віну

**red spider** [ˌredˈspaɪdə] *n. zool.* клешч чырво́ны

**red squirrel** [ˌredˈskwɪrəl] *n. zool.* вавёрка звыча́йная

**red tape** [ˌredˈteɪp] *n.* валакі́та, канцыля́рская цягані́на; бюракраты́зм

**reduce** [rɪˈdjuːs] *v.* **1.** зніжа́ць; зніжа́цца; памянша́ць; памянша́цца; збаўля́ць, скарача́ць; *His temperature is much reduced.* Яго тэмпература значна панізілася. **2.** **(by)** худне́ць, худзе́ць; вытры́мліваць дые́ту; **reduce by 10 pounds** пахудзе́ць на 10 фу́нтаў **3.** вымуша́ць; даво́дзіць (*да чаго-н.*); **reduce smb. to tears/extremety** даве́сці каго́-н. да слёз/адча́ю ♦ **in reduced circumstances** у ця́жкіх абста́вінах

**reduction** [rɪˈdʌkʃn] *n.* **1.** **(in)** зніжэ́нне, паніжэ́нне; памяншэ́нне, скарачэ́нне; **a reduction in unemployment** скарачэ́нне беспрацо́ўя **2.** скі́дка; **a reduction on train tickets for students** скі́дка для студэ́нтаў на прае́зд па чыгу́нцы **3.** паме́ншаная ко́пія (*фатаграфіі, карты, карціны*)

**redundancy** [rɪˈdʌndənsi] *n.* **1.** *BrE* скарачэ́нне шта́таў; звальне́нне рабо́чых, слу́жачых; **compulsory redundancy** прымусо́выя звальне́нні **2.** *ling.* плеана́зм

**redundant** [rɪˈdʌndənt] *adj.* **1.** *BrE* скаро́чаны, зво́льнены; той, хто стра́ціў рабо́ту; **become redundant** быць зво́льненым (*па скарачэнні штатаў*); стаць беспрацо́ўным **2.** залі́шні, празме́рны, лі́шні; *The words gradually became redundant and dropped out of the language.* Словы паступова выйшлі з ужытку і зніклі з мовы.

**reduplicate** [ˌriːˈdjuːplɪkeɪt] *v.* падво́йваць

**red wine** [ˌredˈwaɪn] *n.* чырво́нае віно́

**redwood** [ˈredwʊd] *n.* **1.** чырво́нае дрэ́ва; чырво́ная драўні́на **2.** *bot.* каліфарні́йскае ма́мантавае дрэ́ва

**reed** [riːd] *n.* **1.** *bot.* трыснёг, трысцё, чаро́т **2.** *mus.* жале́йка, ду́дка; язычо́к; **the reeds of the orchestra** язычко́выя інструме́нты арке́стра

**re-educate** [ˌriːˈedʒʊkeɪt] *v.* перавыхо́ўваць; *Young criminals must be re-educated.* Маладых злачынцаў трэба абавязкова перавыхоўваць.

**re-education** [ˌriːedʒʊˈkeɪʃn] *n.* перавыхава́нне

**reedy** [ˈriːdi] *adj.* **1.** заро́слы трыснягом/чаро́там; трысняго́вы **2.** пранí́злівы (*пра голас, гук*) **3.** гі́бкі, гну́ткі; то́нкі (*як трысцінка*)

**reef** [riːf] *n.* рыф; падво́дная скала́; *The ship was wrecked on the reef.* Карабель разбіўся аб рыф.

**reek**[1] [riːk] *n.* смуро́д; **kitchen reek** чад; **the reek of stale tobacco and beer** застая́лы тытунёвы і піўны́ пах

**reek**[2] [riːk] *v.* **1. (of)** дрэ́нна па́хнуць; смярдзе́ць; смуро́дзіць (*чым-н.*); *His clothes reeked of tobacco.* Яго вопратка прапахла тытунём. **2.** адава́ць, папа́хваць (*перан.*); *The whole business reeks of dishonesty.* Уся справа папахвае несумленнасцю.

**reel**[1] [riːl] *n.* шпу́ля, шпу́лька; бабі́на; руло́н; **a reel of threads** шпу́лька ні́так

**reel**[2] [riːl] *v.* намо́тваць

**reel**[3] [riːl] *n.* хіста́нне, гайда́нне

**reel**[4] [riːl] *v.* **1.** круці́цца, кружы́цца; *His head reeled.* У яго закружылася галава. **2.** хіста́цца, гайда́цца

**reel off** [ˌriːlˈɒf] *phr.v.* ху́тка, без перапы́нку чыта́ць або́ раска́зваць

**re-elect** [ˌriːɪˈlekt] *v.* перавыбіра́ць, выбіра́ць зноў; *He was not re-elected.* Яго не выбралі на другі тэрмін.

**re-election** [ˌriːɪˈlekʃn] *n.* перавыбра́нне, паўто́рнае выбра́нне

**re-enter** [ˌriːˈentə] *v.* увайсці́ зноў; вярну́цца

**re-entry** [ˌriːˈentri] *n.* **(into)** вярта́нне; **a successful re-entry into the earth's atmosphere** паспяхо́вае вярта́нне ў зямну́ю атмасфе́ру

**re-establish** [ˌriːɪˈstæblɪʃ] *v.* аднаўля́ць; *He was re-established in his possessions.* Яму вярнулі яго маёмасць.

**re-establishment** [ˌriːɪˈstæblɪʃmənt] *n.* аднаўле́нне

**refection** [rɪˈfekʃn] *n. lit.* лёгкая закуска

**refectory** [rɪˈfektri] *n.* стало́вая (*у школе, каледжы*); трапе́зная (*у манастыры*)

**refer** [rɪˈfɜː] *v.* **(to) 1.** пасыла́ць, адсыла́ць (*да каго-н./чаго-н.*); *I referred him to the secretary.* Я паслаў яго да сакратара. **2.** звярта́цца (*па дапамогу і да т.п.*); *I shall have to refer to the Board.* Я буду вымушаны звярнуцца ў праўленне. **3.** спраўля́цца; карыста́цца даве́днікам і да т.п. **4.** спасыла́цца (*на каго-н./што-н.*); **referring to your letter** спасыла́ючыся на ва́ша пісьмо́ **5.** упаміна́ць, гавары́ць (*пра каго-н./што-н.*)

**referable** [rɪˈfɜːrəbl] *adj. fml* **(to) 1.** які́ тлума́чыцца (*чым-н.*); **success referable to hard work** по́спех, дася́гнуты дзя́куючы насто́йлівай пра́цы **2.** які́ падляга́е разгля́ду; **referable to the subcommittee** які́ падляга́е разгля́ду падкамітэ́там

**referee**[1] [ˌrefəˈriː] *n.* **1.** *law* арбі́тр; трацэ́йскі суддзя́ **2.** *sport* рэ́феры, суддзя́ (*у некаторых відах спорту*); **a chief referee** гало́ўны суддзя́ **3.** *BrE* рэцэнзе́нт-экспе́рт; а́ўтар во́дзыву

**referee**[2] [ˌrefəˈriː] *v. sport* судзі́ць

**refereeing** [ˌrefəˈriːɪŋ] *n. sport* судзе́йства; **top-class refereeing** судзе́йства высо́кага кла́са

**reference**[1] [ˈrefrəns] *n.* **1. (to)** спасы́лка (*на каго-н./што-н.*); успаміна́нне (*аб кім-н./чым-н.*); **make a reference to smb./smth.** спасыла́цца на каго́-н./што-н.; **a list of reference** спіс (цытава́най) літарату́ры **2**. даве́дка; **for reference** для даве́дкі **3.** во́дзыў, рэкаменда́цыя **4.** дачыне́нне ♦ **in/with reference to** *fml* адно́сна, у дачыне́нні; што (да)ты́чыцца, што да…

**reference**[2] [ˈrefrəns] *v. fml* **1.** дава́ць спасы́лкі (*да кнігі*) **2.** спасыла́цца, дава́ць спасы́лку (*на крыніцу, заўвагу*)

**reference book** [ˈrefrənsˌbʊk] *n.* даве́днік

**reference library** [ˈrefrənsˌlaɪbrəri] *n.* **1.** даве́дачная бібліятэ́ка **2.** бібліятэ́ка без вы́дачы кніг на дом

**referendum** [ˌrefəˈrendəm] *n.* (*pl.* **referendums** *or* **referenda**) **(on)** рэферэ́ндум, наро́днае апыта́нне; **hold a referendum** праве́сці рэферэ́ндум

**refill**[1] [ˈriːfɪl] *n.* **1.** дапаўне́нне, папаўне́нне **2.** запра́ўка, дазапра́ўка

**refill**[2] [ˌriːˈfɪl] *v.* напаўня́ць зноў; напаўня́цца зноў; *I'll just refill the coffee pot.* Я зараз зноў напоўню кафейнік.

**refine** [rɪˈfaɪn] *v.* **1.** ачышча́ць, рафінава́ць; **refine oil** рафінава́ць але́й; ачышча́ць на́фту **2.** надава́ць высакаро́днасць; удаскана́льваць, паляпша́ць; *He got an education that refined his taste.* Ён атрымаў адукацыю, якая выхавала ў ім добры густ.

**refined** [rɪˈfaɪnd] *adj.* **1.** ачы́шчаны, рафінава́ны; **refined sugar** цу́кар-рафіна́д **2.** вы́танчаны; згра́бны, то́нкі; элега́нтны; **refined manners** до́брае выхава́нне

**refinement** [rɪˈfaɪnmənt] *n.* **1.** вы́танчанасць, далікáтнасць; згра́бнасць; **lack of refinement** некульту́рнасць; **the refinement of taste** то́нкі густ **2.** удасканáленне

**refinery** [rɪˈfaɪnəri] *n.* нафтаперагóнны заво́д

**refining** [rɪˈfaɪnɪŋ] *n.* ачы́стка, рафінава́нне

**refit**[1] [ˈriːfɪt] *n.* **1.** рамо́нт **2.** пераабсталява́нне

**refit**[2] [ˌriːˈfɪt] *v.* **1.** рамантава́ць **2.** пераабсталёўваць (*карабель, яхту і да т.п.*)

**reflect** [rɪˈflekt] *v.* **1. (in)** адлюстро́ўваць; адлюстро́ўвацца (*таксама перан.*); *His emotions were reflected in his face.* Усе яго пачуцці адлюстроўваліся на яго твары. **2.** адбіва́ць; адбіва́цца (*пра святло, гук і да т.п.*); *White clothes are cooler because they reflect the heat.*

Белае адзенне больш ахаладжальнае, таму што яно адбівае сонечныя промні. **3. (on/upon)** меркава́ць, разду́мваць; *I must reflect upon what you have said.* Я павінен падумаць над тым, што ты сказаў.

**reflection** [rɪˈflekʃn] *n.* **1.** адлюстрава́нне (*у розных знач.*); *A high crime rate is a reflection of an unstable society.* Высокі ўзровень злачыннасці адлюстроўвае няўстойлівы стан грамадства. **2.** ро́здум, развaжа́нне; **lost in reflection** паглы́блены ў ро́здум

**reflective** [rɪˈflektɪv] *adj.* **1.** які́ адлюстро́ўвае, адбіва́е **2.** задуме́нны, заду́млівы **3.** *fml* ду́маючы, мы́слячы

**reflector** [rɪˈflektə] *n.* рэфле́ктар

**reflex** [ˈriːfleks] *n.* рэфле́кс; **have quick reflex** мець ху́ткую рэа́кцыю; *The doctor checked my reflexes.* Доктар праверыў маю рэакцыю.

**reflexion** [rɪˈflekʃn] *BrE* = **reflection**

**reflexive¹** [rɪˈfleksɪv] *n. ling.* **1.** зваро́тны займе́ннік **2.** зваро́тны дзеясло́ў

**reflexive²** [rɪˈfleksɪv] *adj. ling.* зваро́тны

**reform¹** [rɪˈfɔːm] *n.* рэфо́рма; пераўтвара́нне; **sweeping reforms** кара́нныя пераўтвара́нні; **an educational reform** рэфо́рма адука́цыі

**reform²** [rɪˈfɔːm] *v.* **1.** рэфармава́ць, пераўтвара́ць; паляпша́ць; **reform administration** рэфармава́ць кірава́нне **2.** папраўля́ць, перавыхо́ўваць

**re-form** [rɪˈfɔːm] *v.* перафармiро́ўваць

**reformat** [riːˈfɔːmæt] *v. comput.* перафармаці́раваць, фармаці́раваць нано́ва

**reformation** [ˌrefəˈmeɪʃn] *n.* **1.** змяне́нне; выпраўле́нне, паляпшэ́нне; **the reformation of education** рэфо́рма сістэ́мы адука́цыі **2. the Reformation** Рэфарма́цыя

**reformer** [rɪˈfɔːmə] *n.* рэфарма́тар, пераўтвара́льнік; *He was a reformer of surgery.* Ён стварыў новую хірургію.

**reformist¹** [rɪˈfɔːmɪst] *n.* рэфармі́ст

**reformist²** [rɪˈfɔːmɪst] *adj.* рэфармі́сцкі

**refract** [rɪˈfrækt] *v. phys.* праламля́ць

**refractory** [rɪˈfræktəri] *adj.* **1.** *fml* непако́рны, непако́рлівы; упа́рты **2.** *med.* які́ не паддае́цца лячэ́нню

**refrain¹** [rɪˈfreɪn] *n.* рэфрэ́н, прыпе́ў

**refrain²** [rɪˈfreɪn] *v. fml* **(from)** стры́млівацца, устры́млівацца; *Kindly refrain from smoking.* Устрымайцеся ад курэння, калі ласка.

**refresh** [rɪˈfreʃ] *v.* **1.** асвяжа́ць; падмацо́ўваць; *The rest will refresh you.* Адпачынак верне табе сілы. **2.** *comput.* рэгенеры́раваць; узнаўля́ць

**refreshment** [rɪˈfreʃmənt] *n.* **1.** *fml* е́жа, пітво́; *Won't you take some refreshment?* Ці не жадаеце падмацавацца?; *Refreshments will be served after the meeting.* Прахаладжальныя напоі і закуску пададуць пасля сходу. **2.** аднаўле́нне сіл, адпачы́нак

**refrigerate** [rɪˈfrɪdʒəreɪt] *v.* ахало́джваць, астуджа́ць; замаро́жваць

**refrigerator** [rɪˈfrɪdʒəreɪtə] *n. fml* рэфрыжэра́тар, халадзі́льнік

**refuel** [ˌriːˈfjuːəl] *v.* дазапраўля́цца; папаўня́ць запа́сы па́ліва; *We stopped in Bath to refuel.* Мы спыніліся ў Баце, каб заправіцца.

**refuge** [ˈrefjuːdʒ] *n.* прыста́нішча; прыту́лак; **seek refuge** шука́ць прыту́лку; **take refuge** знахо́дзіць прыста́нішча

**refugee** [ˌrefjuˈdʒiː] *n.* уцяка́ч, бе́жанец; **a refugee camp** ла́гер бе́жанцаў

**refund¹** [ˈriːfʌnd] *n.* апла́та страт; *They gave me a refund.* Мне вярнулі грошы.

**refund²** [rɪˈfʌnd] *v.* **(to)** вярта́ць гро́шы

**refurbish** [ˌriːˈfɜːbɪʃ] *v.* паднаўля́ць; асвяжа́ць (*пра будынак, пакой і да т.п.*)

**refusal** [rɪˈfjuːzl] *n.* **(of)** адмо́ва; **a flat refusal** катэгары́чная адмо́ва

**refuse¹** [ˈrefjuːs] *n.* адкі́ды, сме́цце

**refuse²** [rɪˈfjuːz] *v.* **1.** адмаўля́ць, адхіля́ць; *I am sure if you ask her to help you, she won't refuse.* Я ўпэўнены, што яна не адмовіць, калі вы звернецеся да яе па дапамогу. **2.** адмаўля́цца

**refute** [rɪˈfjuːt] *v. fml* абвярга́ць, дака́зваць няслу́шнасць, беспадста́ўнасць

**regain** [rɪˈgeɪn] *v.* атрыма́ць наза́д; набы́ць зноў; аднаві́ць; **regain consciousness** апрыто́мнець; **regain one's health** паздараве́ць, папра́віцца (*пра здароўе*)

**regard¹** [rɪˈgɑːd] *n.* **1.** *fml* **(for)** пава́га, прыхі́льнасць; **show regard for smb.** быць высо́кай ду́мкі пра каго́-н. **2.** *fml* **(to/for)** ува́га; кло́пат; **pay no regard to/for smth.** грэ́баваць чым-н. **3.** *pl.* **regards** прывіта́нні, пажада́нні; **with best regards** з найле́пшымі пажада́ннямі ♦ **in this/that regard** *fml* у су́вязі з гэ́тым; **in/with regard to smb./smth.** *fml* што (да)ты́чыцца каго́-н./чаго́-н.

**regard²** [rɪˈgɑːd] *v.* **1.** разгляда́ць, лічы́ць; *They regard him as a hero.* Яны лічаць яго героем. **2.** лічы́цца **3.** паважа́ць ♦ **as regards** што ты́чыцца

**regarding** [rɪˈgɑːdɪŋ] *prep.* адно́сна, што ты́чыцца, нако́нт (*каго-н./чаго-н.*)

**regardless** [rɪˈgɑːdləs] *adv.* не зварта́ючы ўва́гі ні на што; не лі́чачыся ні з чым

**regardless of** [rɪˈgɑːdləsəv] *prep.* незале́жна ад, не прыма́ючы пад ува́гу

**regatta** [rɪˈgætə] *n.* рэга́та

**regenerate** [rɪˈdʒenəreɪt] *v.* **1.** аднаўля́ць (ца́лкам), адраджа́ць **2.** *biol.* зноў расці́, адраджа́цца
**regime** [reɪˈʒiːm] *n.* рэжы́м; лад; ула́да; **a fascist/totalitarian/military regime** фашы́сцкі/тата-літа́рны/вае́нны рэжы́м; **a puppet regime** марыяне́тачны ўрад
**regimen** [ˈredʒɪmən] *n. med.* рэжы́м; дые́та
**regiment** [ˈredʒɪmənt] *n.* **1.** полк **2.** *fml* вялі́кая ко́лькасць (*людзей, рэчаў*)
**regimental** [ˌredʒɪˈmentl] *adj.* палкавы́; **a regimental flag** палкавы́ сцяг
**region** [ˈriːdʒən] *n.* **1.** мясцо́васць; рэгіён; раён, во́бласць; *Few unknown regions are left on the Earth.* На Зямлі засталося мала нявывучаных мясцін. **2.** : (*пра часткі цела*) **the abdominal region** брушна́я по́ласць ♦ **in the region of** прыблі́зна
**regional** [ˈriːdʒənl] *adj.* рэгіяна́льны, абласны́; мясцо́вы
**register**[1] [ˈredʒɪstə] *n.* **1.** журна́л (*запісаў*); рэе́стр; метры́чная кні́га; **a civil register of births, deaths and marriages** кні́га за́пісаў а́ктаў грамадзя́нскага ста́ну **2.** афіцы́йны спіс; **a register of voters** спіс вы́баршчыкаў **3.** *mus.* рэгі́стр
**register**[2] [ˈredʒɪstə] *v.* **1.** рэгістрава́ць, уно́сіць у спіс **2.** адзнача́ць, пака́зваць (*пра прыборы*) *The thermometer registeres 20° C.* Тэрмометр паказваў 20° па Цэльсію. **3.** адлюстро́ўваць; пака́зваць **4.** адпраўля́ць заказно́й по́штай; **a registered letter** заказно́е пісьмо́
**registrar** [ˌredʒɪˈstrɑː] *n.* **1.** рэгістра́тар **2.** сакрата́р (*у навучальнай установе*)
**registration** [ˌredʒɪˈstreɪʃn] *n.* **1.** рэгістра́цыя, рэгістрава́нне; унясе́нне ў спіс/рэ́естр **2.** рэгістрацы́йны за́піс; **the registration number of a car** *BrE* (рэгістрацы́йны) ну́мар аўтамабі́ля
**registry** [ˈredʒɪstri] *n.* рэгістрату́ра; канцыля́рыя
**registry office** [ˈredʒɪstriˌɒfɪs] *n.* бюро́ за́пісаў а́ктаў грамадзя́нскага ста́ну
**regress**[1] [rɪˈgres] *n.* рэгрэ́с, адваро́тны рух
**regress**[2] [rɪˈgres] *v. fml* **(to)** ру́хацца ў адваро́тным кіру́нку
**regret**[1] [rɪˈgret] *n.* шкадава́нне; *I have no regrets.* Я ні аб чым не шкадую.
**regret**[2] [rɪˈgret] *v.* шкадава́ць (*аб чым-н.*)
**regretful** [rɪˈgretfəl] *adj.* по́ўны шкадава́ння; засму́чаны
**regroup** [ˌriːˈgruːp] *v.* **(for)** перагрупо́ўваць; перагрупо́ўвацца
**regular**[1] [ˈregjələ] *n.* **1.** пастая́нны наве́двальнік або́ кліе́нт **2.** салда́т рэгуля́рнай а́рміі
**regular**[2] [ˈregjələ] *adj.* **1.** пра́вільны, разме́раны, рэгуля́рны; *His breathing was slow and regular.* Яго дыханне было павольнае і раўнамернае. **2.** пастая́нны, заўсёдны; **regular employment** пастая́нная пра́ца **3.** *mil.* рэгуля́рны, ка́дравы; **a regular army** рэгуля́рная а́рмія; **a regular officer** ка́дравы афіцэ́р **4.** *ling.* пра́вільны; **regular verbs** пра́вільныя дзеясло́вы
**regularity** [ˌregjuˈlærəti] *n.* рэгуля́рнасць; пра́вільнасць
**regularly** [ˈregjələli] *adv.* **1.** рэгуля́рна, праз адно́лькавыя праме́жкі ча́су; *The club meets regularly once a fortnight.* Клуб збіраецца рэгулярна, раз у два тыдні. **2.** пра́вільна, разме́рана
**regulate** [ˈregjuleɪt] *v.* **1.** рэгулява́ць, кантралява́ць; **regulate the traffic** рэгулява́ць ву́лічны рух; **regulate one's conduct** кантралява́ць сваё учы́нкі **2.** рэгулява́ць; **regulate a clock** вы́верыць гадзі́ннік
**regulation**[1] [ˌregjuˈleɪʃn] *n.* **1.** пра́віла, стату́т; *There are too many rules and regulations governing small business.* Існуе занадта многа розных норм і правіл для кіравання малым бізнесам. **2.** рэгулява́нне, упарадко́ўванне; **government regulation** дзяржа́ўнае ўпара́дкаванне
**regulation**[2] [ˌregjuˈleɪʃn] *adj.* прыня́ты, усталява́ны, прадпі́саны; **regulation uniform** абмундзірава́нне
**regulator** [ˈregjuleɪtə] *n.* рэгуля́тар, стабіліза́тар
**rehabilitate** [ˌriːəˈbɪlɪteɪt] *v.* **1.** рэабілітава́ць (*у розных знач.*) **2.** аднаўля́ць; рамантава́ць; рэканструява́ць
**rehearsal** [rɪˈhɜːsl] *n.* рэпеты́цыя; **a dress rehearsal** генера́льная рэпеты́цыя
**rehearse** [rɪˈhɜːs] *v.* **1.** рэпеці́раваць; *The musicians were rehearsing until 2 o'clock in the morning.* Музыканты рэпеціравалі да дзвюх гадзін ночы. **2.** *fml* паўтара́ць; пералі́чваць
**reheat** [ˌriːˈhiːt] *v.* паўто́рна награва́ць; падаграва́ць
**reign**[1] [reɪn] *n.* **1.** ца́рстваванне, царава́нне; кірава́нне дзяржа́вай **2.** улада́рства; панава́нне; **the reign of law** панава́нне зако́ну; правапара́дак
**reign**[2] [reɪn] *v.* **1.** ца́рстваваць, царава́ць; *Queen Victoria reigned over sixty years.* Каралева Вікторыя была на троне звыш шасцідзесяці год. **2.** улада́рыць; панава́ць; *Anarchy reigned for many years.* Анархія панавала на працягу многіх гадоў.
**rein**[1] [reɪn] *n. pl.* **reins** ле́йцы; **draw reins** нацягну́ць ле́йцы, спыні́ць каня́ ♦ **give smb. free**

**rein** даваць каму-н. поўную свабоду дзеянняў; **keep a tight rein on smb.** трымаць пад строгім кантролем, трымаць у цуглях, трымаць у чорным целе

**rein**[2] [reɪn] *v.* **1.** нацягваць аброць, лейцы **2.** стрымліваць; кантраляваць; *He could not rein his impatience.* Ён не мог стрымаць нецярпенне.

**reincarnate** [ˌriːɪnˈkɑːneɪt] *v.* пераўвасабляць

**reincarnation** [ˌriːɪnkɑːˈneɪʃn] *n.* рэінкарнацыя, пераўвасабленне

**reindeer** [ˈreɪndɪə] *n. zool.* (*pl.* **reindeer** *or* **reindeers**) паўночны алень; *Herds of reindeer graze on the tundra.* Статкі аленяў пасвяцца ў тундры.

**reinforce** [ˌriːɪnˈfɔːs] *v.* узмацняць, умацоўваць; **reinforce troops at the front** пасылаць папаўненне на фронт

**reinforced concrete** [ˌriːɪnfɔːstˈkɒŋkriːt] *n.* жалезабетон

**reinterpret** [ˌriːɪnˈtɜːprɪt] *v.* тлумачыць па-новаму, даць новае (*іншае*) тлумачэнне (*чаму-н.*)

**reinvest** [ˌriːɪnˈvest] *v.* зноў інвесціраваць капітал

**reissue**[1] [ˌriːˈɪʃuː] *n.* перавыданне; паўторны выпуск фільма на экран; паўторны гуказапіс

**reissue**[2] [ˌriːˈɪʃuː] *v.* перавыдаваць; паўторна выпускаць фільм на экран; рабіць паўторны гуказапіс

**reject**[1] [ˈriːdʒekt] *n.* брак, недабраякасны выраб

**reject**[2] [rɪˈdʒekt] *v.* адкідаць; адхіляць, адмаўляцца; *Sarah rejected her brother's offer of help.* Сара адхіліла прапанову брата аб дапамозе.

**rejoice** [rɪˈdʒɔɪs] *v. fml* **(at/in/over)** радаваць; радавацца; цешыць; цешыцца; *A letter from you rejoiced my heart.* Ваша пісьмо ўзрадавала мяне.

**rejoicing** [rɪˈdʒɔɪsɪŋ] *n.* **1.** весялосць, радасць **2.** святкаванне, свята; *There was great rejoicing over the victory.* З выпадку перамогі адбылося вялікае свята.

**rejoin** [ˌriːˈdʒɔɪn] *v.* **1.** далучацца зноў; *Jane went to rejoin her friends in the lounge.* Джэйн зноў пайшла да сваіх сяброў у гасцінай. **2.** злучыць зноў; *The broken pieces were rejoined and glued.* Разбітыя кавалкі склалі і склеілі.

**rejuvenate** [rɪˈdʒuːvəneɪt] *v.* амалоджваць; аднаўляць; маладзець

**relate** [rɪˈleɪt] *v.* **(to) 1.** устанаўліваць сувязь або адносіны; **relate theory and practice** звязаць тэорыю з практыкай **2.** адносіцца; мець дачыненне (*да чаго-н.*); *He notices nothing but what relates to himself.* Ён звяртае ўвагу толькі на тое, што тычыцца непасрэдна яго.

**related** [rɪˈleɪtɪd] *adj.* **1.** узаемазвязаны; **related phenomena** звязаныя паміж сабой з'явы **2.** роднасны, сваяцкі, блізкі; **related by marriage** сваякі па мужу/жонцы

**relation** [rɪˈleɪʃn] *n.* **1.** *pl.* **relations** адносіны; *The two countries established diplomatic relations in 1970.* Гэтыя дзве краіны ўстанавілі дыпламатычныя адносіны ў 1970 г. **2.** сувязь, кантакт **3.** сваяк; сваячка; **a close/near relation** блізкі сваяк

**relationship** [rɪˈleɪʃnʃɪp] *n.* **(between, with) 1.** узаемаадносіны, узаемадачыненні, стасункі; *We have a good working relationship with the managers.* У нас добрыя рабочыя адносіны з менеджарамі. **2.** (любоўная) сувязь

**relative**[1] [ˈrelətɪv] *n.* сваяк; сваячка; *We visit friends and relatives at Christmas.* Мы наведваем сяброў і сваякоў на Каляды.

**relative**[2] [ˈrelətɪv] *adj. fml* **1. : relative to** адносны, суадносны; **the facts relative to this case** адноснае становішча **2.** умоўны, параўнальны, адносны; *Beauty is a relative term.* Прыгажосць – паняцце адноснае. **3.** *ling.* адносны; **a relative pronoun** адносны займеннік ♦ **it's all relative** усё адносна

**relatively** [ˈrelətɪvli] *adv.* адносна, параўнаўча, параўнальна; **a relatively useful contraption** даволі карысная прылада ♦ **relatively speaking** увогуле, наогул; уласна кажучы

**relativity** [ˌreləˈtɪvəti] *n.* **1.** *fml* адноснасць **2.** *phys.* тэорыя адноснасці

**relax** [rɪˈlæks] *v.* **1.** адпачываць; расслабляцца; рабіць перадышку; *After a hard day's work, relax in the swimming pool.* Пасля цяжкага працоўнага дня адпачні ў басейне. **2.** расслабляць, паслабляць, аслабляць; **relax tension** аслабляць напружанасць

**relaxation** [ˌriːlækˈseɪʃn] *n.* **1.** адпачынак; забава; **take some relaxation** зрабіць перадышку; *He finds relaxation in playing the piano.* Ён знаходзіць адпачынак у ігры на піяніна. **2.** рэлаксацыя, расслабленне

**relaxed** [rɪˈlækst] *adj.* **1.** натуральны, раскаваны **2.** спакойны; ураўнаважаны

**relaxing** [rɪˈlæksɪŋ] *adj.* рэлаксацыйны, змякчальны, расслабляльны

**release**[1] [rɪˈliːs] *n.* **1.** выслабаненне; вызваленне (*ад зняволення*); **release on bail** вызваленне пад заклад **2.** збавенне, вызваленне, выратаванне; палёгка; **a wonderful feeling of release** цудоўнае пачуццё палёгкі **3.** выпуск фільма (*на экран*) **4. : press release** прэс-рэліз; паведамленне для прэсы

**release**[2] [rɪˈliːs] *v.* **(from) 1.** вызваля́ць, вызвалабаня́ць, выпуска́ць на во́лю; **release a prisoner/hostage** адпусці́ць зняво́ленага/зало́жніка **2.** выпуска́ць з рук **3.** збаўля́ць; вызваля́ць (*ад абавязкаў*) **4.** выпуска́ць на экра́н

**relevant** [ˈreləvənt] *adj.* **(to) 1.** рэлева́нтны, слу́шны, дарэ́чны; які́ ма́е дачыне́нне да спра́вы **2.** актуа́льны; ва́жны, неабхо́дны; **be not relevant** быць лі́шнім, незапатрабава́ным

**reliable** [rɪˈlaɪəbl] *adj.* **1.** надзе́йны; **a reliable friend** надзе́йны ся́бар **2.** які́ заслуго́ўвае даве́ру; пэ́ўны, дакла́дны; **a reliable source of information** надзе́йная крыні́ца інфарма́цыі

**reliance** [rɪˈlaɪəns] *n.* **(on/upon)** даве́р; упэ́ўненасць; *I put little reliance on him.* Я мала яму давяраю.

**reliant** [rɪˈlaɪənt] *adj.* зале́жны; **be reliant on/upon smb./smth.** зале́жаць ад каго́-н./чаго́-н.

**relic** [ˈrelɪk] *n.* **1.** рэлі́квія; **keep smth. as a relic** захо́ўваць што-н. як рэлі́квію **2. (of, from)** след, рэ́шта; рэлі́кт; **a relic of early civilization** рэлі́кт старажы́тнай цывіліза́цыі

**relief** [rɪˈliːf] *n.* **1.** палёгка; суцішэ́нне; *I felt a huge surge of relief and happiness.* Мяне захліснула хваля палёгкі і адчування шчасця. **2.** зніжэ́нне; змякчэ́нне; **the relief of suffering** аблягчэ́нне паку́т **3.** дапамо́га (*грашыма, адзеннем, харчаваннем і да т.п.*); дапамо́га па беспрацо́ўі; **a relief fund for refugees** фонд дапамо́гі бе́жанцам **4.** зме́на дзяжу́рных

**relieve** [rɪˈliːv] *v.* **1.** аблягча́ць, палягча́ць, аслабля́ць; *Drugs helped to relieve the pain.* Лекі дапамаглі суцішыць боль. **2.** ака́зваць дапамо́гу, выруча́ць; **relieve from poverty** вы́зваліць з гале́чы **3.** змяня́ць, забяспе́чваць зме́ну (*на працы*) **4. : relieve smb. of smth.** вы́зваліць каго́-н. ад чаго́-н. *infml* абакра́сці (*каго-н.*); *The thief relieved him of his watch.* Злодзей украў у яго гадзіннік.

**relieved** [rɪˈliːvd] *adj.* супако́ены, задаво́лены; *She looked immensely relieved when she heard the news.* Яна выглядала вельмі задаволенай, калі пачула гэтую навіну.

**religion** [rɪˈlɪdʒən] *n.* **1.** рэлі́гія; веравызна́нне; **the Christian religion** хрысція́нства. **2.** культ, святы́ня

**religious** [rɪˈlɪdʒəs] *adj.* **1.** рэлігі́йны, які́ ма́е адно́сіны да рэлі́гіі; **a religious ceremony** рэлігі́йны абра́д **2.** набо́жны, ве́руючы; **a deeply religious person** глыбо́ка ве́руючы чалаве́к

**religiously** [rɪˈlɪdʒəsli] *adv.* **1.** рэлігі́йна; набо́жна **2.** дакла́дна; *I was religiously following all the instructions.* Я дакладна выконваў усе інструкцыі.

**relinquish** [rɪˈlɪŋkwɪʃ] *v. fml* здава́ць, пакіда́ць; **relinquish one's place** адмо́віцца ад свайго́ ме́сца; **relinquish territory** уступі́ць тэрыто́рыю; **relinquish hope** пакі́нуць усяля́кую надзе́ю; **relinquish a habit** перамагчы́ звы́чку

**relish**[1] [ˈrelɪʃ] *n.* **1.** задавальне́нне, асало́да; смак; *There was a certain relish in his voice as he announced the news.* У яго голасе адчувалася задавальненне, калі ён паведамляў навіну. **2.** (*вострая*) прыпра́ва

**relish**[2] [ˈrelɪʃ] *v.* атры́млівацьзадавальне́нне; смакава́ць

**relive** [ˌriːˈlɪv] *v.* уваскрэ́сіць у па́мяці; перажы́ць зноў; *We often find ourselves reliving our schooldays when we meet up.* Кожны раз пры сустрэчы мы ўзгадваем свае школьныя гады.

**reluctance** [rɪˈlʌktəns] *n.* неахво́та; нежада́нне

**reluctant** [rɪˈlʌktənt] *adj.* неахво́тны; *He is reluctant to accept.* Ён неахвотна згаджаецца.

**rely** [rɪˈlaɪ] *v.* **(on/upon) 1.** спадзява́цца; разлі́чваць, давяра́ць; *You may rely on me.* Вы можаце разлічваць на мяне **2.** зале́жаць (*ад чаго-н.*); *They rely on the spring for their water.* Яны атрымліваюць ваду толькі з гэтай крыніцы.

**remade** [ˌriːˈmeɪd] *past, p.p.* → **remake**[2]

**remain** [rɪˈmeɪn] *v. fml* **1.** застава́цца; *Only one question remains to be answered.* Застаецца адказаць толькі на адно пытанне. **2.** знахо́дзіцца, быць; **remain at home** застава́цца до́ма **3.** захо́ўвацца; застава́цца ў пэ́ўным ста́не; **remain silent** захо́ўваць маўча́нне

**remainder** [rɪˈmeɪndə] *n.* **1.** рэ́шта, аста́так, рэ́шткі; *The remainder of his life he spent in the country.* Астатак свайго жыцця ён правёў у вёсцы. **2. the remainder** аста́тнія; *The remainder sat down.* Астатнія селі. **3.** *math.* аста́ча

**remains** [rɪˈmeɪnz] *n.* **1.** рэ́шта, рэ́шткі; **the remains of the meal** рэ́шткі яды́ **2.** руі́ны, разва́ліны; **the remains of ancient Rome** руі́ны старажы́тнага Ры́ма 3. аста́нкі; прах

**remake**[1] [ˈriːmeɪk] *n.* рыме́йк; но́вая ве́рсія (*пастаноўкі, фільма, музычнага запісу і да т.п.*)

**remake**[2] [ˌriːˈmeɪk] *v.* **(remade)** перарабля́ць, рабі́ць на́нава

**remark**[1] [rɪˈmɑːk] *n.* **1.** заўва́га; **make a remark** зрабі́ць заўва́гу **2.** ува́га; назіра́нне; *It is worthy of remark.* Гэта варта ўвагі.

**remark**[2] [rɪˈmɑːk] *v.* **1.** заўважа́ць; адзнача́ць; "*That's a lovely shirt you are wearing,*" *she remarked.* «Якая прыгожая на табе кашуля», – адзначыла яна. **2.** рабі́ць заўва́гу, вытка́звацца; **remark on/upon smth.** вы́ка́звацца аб чым-н.; *Everyone remarked on his absence.* Усе выказаліся наконт яго адсутнасці.

**remarkable** [rɪˈmɑːkəbl] *adj.* **(for)** надзвычáйны, цудóўны, дзíўны; якí вылучáецца чым-н.; *Finland is remarkable for its large number of lakes.* Фінляндыя вылучаецца вялікай колькасцю азёраў. ♦ **in a remarkable manner** дзíўным чы́нам

**remarry** [ˌriːˈmæri] *v.* узя́ць нóвы шлюб

**rematch** [ˈriːmætʃ] *n. sport* перагýльванне

**remediable** [rɪˈmiːdɪəbl] *adj. fml* папрáўны; вылéчны

**remedial** [rɪˈmiːdiəl] *adj.* **1.** папрáўчы **2.** якí карэкцíруе

**remedy¹** [ˈremədi] *n.* **(for/to) 1.** срóдак; мéра (*супраць чаго-н.*); **remedy for polution** срóдак барацьбы́ з забрýджанасцю **2.** лéкі, лякáрства; лячэ́бны срóдак; **an excellent remedy for pains** выдáтны срóдак ад бóлю

**remedy²** [ˈremədi] *v.* **1.** вылéчваць **2.** выпраўля́ць; *That cannot be remedied.* Гэтага ўжо не выправіш.

**remember** [rɪˈmembə] *v.* **1.** успамінáць, узгáдваць, прыгáдваць; *I remember my father bringing home a huge Christmas tree.* Я ўзгадваю, як мой бацька прыносіў дадому вялікую калядную ёлку. **2.** пáмятаць, захóўваць у пáмяці **3.** не забывáць, мець на ўвáзе; *Remember to turn out the light.* Не забудзьце выключыць святло. ♦ **be remembered for smth./as smth.** праслáвіцца чым-н.

**remembrance** [rɪˈmembrəns] *n.* пáмяць; успамíн; **within my remembrance** на маёй пáмяці; **in remembrance of** у пáмяць аб

**Remembrance Day** [rɪˌmembrənsˈdeɪ] *n.* (*таксама* **Remembrance Sunday**) дзень пáмяці загíнуўшых у Пéршую і Другýю сусвéтныя вóйны (*адзначаецца ў найбліжэйшую да 11 лістапада нядзелю ў Вялікабрытаніі і некаторых іншых краінах*)

**remind** [rɪˈmaɪnd] *v.* **1. (about/of)** напамінáць, рабіць напамíн; *I must remind you of your promise.* Я павінна напомніць вам аб вашым абяцанні **2. : remind smb. of smb./smth.** нагáдваць камý-н. кагó-н./штo-н.; выклікáць успамíны

**reminisce** [ˌremɪˈnɪs] *v.* **(about)** успамінáць, узгáдваць, аддавáцца ўспамíнам; *We walked on, reminiscing about the old days.* Ідучы, мы ўспаміналі былыя дні.

**reminiscence** [ˌremɪˈnɪsns] *n.* **1.** успамíн, згáдка; *He signed in reminiscence*. Ён уздыхнуў, нешта прыгадаўшы. **2.** *звыч. pl.* мемуáры, успамíны; **reminiscences of the war** успамíны пра вайнý

**remiss** [rɪˈmɪs] *adj. fml* нядбáйны; няўвáжлівы; **be remiss in one's duty** грэ́баваць свaíмі абавя́зкамі

**remission** [rɪˈmɪʃn] *n.* **1.** рэмíсія; (часóвае) аслаблéнне хварóбы **2.** *BrE* скарачэ́нне тэ́рміну зняво́лення **3.** *fml* вызвалéнне (*ад штрафу, падатку і да т.п.*)

**remnant** [ˈremnənt] *n.* рэ́шта, рэ́штка

**remorse** [rɪˈmɔːs] *n.* **1. (for)** пакýты сумнéння **2.** жаль, спачувáнне; **without remorse** бязлíтасна

**remorseful** [rɪˈmɔːsfl] *adj.* пóўны раскáяння

**remorseless** [rɪˈmɔːsləs] *adj.* бязлíтасны

**remote** [rɪˈməʊt] *adj.* **1.** аддáлены, далёкі; **remote past** далёкае мінýлае; **remote ancestors** далёкія прóдкі **2.** глухí, адасóблены; **a remote village** глухáя вёска **3.** далёкі, дáльні (*пра сваякоў*) **4.** малы́; **a remote chance** невялíкі шанц **5. (from)** якí не звя́заны з чым-н. непасрэ́дна; якí мáе аддáленыя аднóсіны да чагó-н.

**remote access** [rɪˌməʊtˈækses] *n. comput.* дыстанцы́йны дóступ

**remote control** [rɪˌməʊtkənˈtrəʊl] *n. comput.* дыстанцы́йнае кіравáнне

**removal** [rɪˈmuːvl] *n.* **(of) 1.** пераéзд; перамяшчэ́нне; **the removal of furniture** перавóзка мэ́блі; **the removal of load** разгрýзка; **the removal into a new house** пераéзд у нóвы дом **2.** зня́цце з пасáды

**remove** [rɪˈmuːv] *v.* **(from) 1.** вынóсіць; прымáць; перастаўля́ць; *Reference books should not be removed from the library.* Даведнікі нельга выносіць з бібліятэкі. **2.** здымáць, знімáць; *He removed his hat and gloves.* Ён зняў капялюш і пальчаткі. **3.** знімáць (*з пасады*) **4.** пераязджáць, мяня́ць кватэ́ру **5.** пазбаўля́цца (*ад чаго-н.*)

**renaissance** [rɪˈneɪsəns] *n.* **1. the Renaissance** Рэнесáнс, эпóха Адраджэ́ння; **Renaissance art** мастáцтва эпóхі Адраджэ́ння **2.** адраджэ́нне (*мастацтва, архітэктуры, літаратуры і да т.п.*)

**rename** [ˌriːˈneɪm] *v.* перайменóўваць, давáць нóвае імя

**renascence** [rɪˈnæsns] *n. fml* адраджэ́нне; ажыўлéнне

**render** [ˈrendə] *v. fml* **1.** аддавáць; адплáчваць; дапамагáць; **render assistance** акáзваць дапамóгу **2. (to)** падавáць, прадстаўля́ць; **render an account to smb.** падáць камý-н. рахýнак **3.** перакладáць (*на іншую мову*)

**rendering** [ˈrendərɪŋ] *n.* **1.** перакла́д; варыя́нт перакла́ду; перадáча (*арыгінала*) **2.** выканáнне, трактóўка (*музычнага твора; ролі*)

**rendezvous**[1] [ˈrɒndɪvuː] *n. франц.* (*pl.* **rendezvous** [-vuːz]) **1. (with)** рандэвý; спаткáнне **2.** мéсца спаткáння; *We arrived early at the rendezvous.* Мы рана прыехалі на сустрэчу.

**rendezvous**[2] [ˈrɒndɪvuː] *v. франц.* **(with)** сустракáцца, прыбывáць на мéсца сустрэ́чы; *The refugees rendezvoused in the valley.* Бежанцы сабраліся ў даліне.

**renew** [rɪˈnjuː] *v.* **1.** аднаўля́ць; рэстаўры́раваць; **renew one's friendship** аднавíць сябрóўства; *The window frames will have to be renewed.* Трэба будзе аднавіць аконную раму. **2.** прадаўжáць, працягваць; *I must remember to renew the car insurance.* Я павінен не забыцца прадоўжыць страхоўку аўтамабіля.

**renewable** [rɪˈnuːəbl] *adj.* які́ мóжна аднавíць

**renewal** [rɪˈnjuːəl] *n.* **(of)** аднаўлéнне, замéна; рэстаўрáцыя; прадаўжэ́нне

**renounce** [rɪˈnaʊns] *v. fml* адракáцца; выракáцца, адмаўля́цца (*у розных знач.*); **renounce one's property** адмóвіцца ад улáснасці; **renounce one's errors** адрачы́ся ад сваíх памы́лак; **renounce beliefs/ideals/principles** адрачы́ся ад пераканáнняў/ідэáлаў/ пры́нцыпаў

**renovate** [ˈrenəveɪt] *v.* паднаўля́ць, рамантавáць

**renown** [rɪˈnaʊn] *n. fml* слáва, папуля́рнасць; **a man of high renown** славýты чалавéк

**rent**[1] [rent] *n.* арэ́ндная плáта; **high/low/fair rent** высóкая/нíзкая/умéраная арэ́ндная плáта ♦ **for rent** здаéцца ў найм (*надпіс*)

**rent**[2] [rent] *v.* **1.** здавáць у арэ́нду **2.** арандавáць; браць у наём/найм, рэнтавáць

**rental** [ˈrentl] *n.* **1.** сýма арэ́ндной плáты; рэ́нтавы дахóд **2.** тóе, што здаéцца ў арэ́нду абó ў пракáт

**reopen** [ˌriːˈəʊpən] *v.* **1.** адкрывáць зноў; адкрывáцца зноў; **reopen a shop** зноў адкры́ць магазíн **2.** аднаўля́ць; **reopen a discussion** зноў адкры́ць дыскýсію ♦ **reopen old wounds** верадзíць старýю рáну

**reorder** [ˌriːˈɔːdə] *v.* паўтарáць/аднаўля́ць закáз

**reorganize** [riˈɔːgənaɪz] *v.* рэарганізóўваць, пераўтварáць

**repaid** [rɪˈpeɪd] *past, p.p.* → **repay**

**repair**[1] [rɪˈpeə] *n.* рамóнт, рамантавáнне; **minor repairs** дрóбны рамóнт; **a repair shop** рамóнтная майстэ́рня ♦ **in good repair/in a good state of repair** *fml* у дóбрым стáне; **in bad repair/in a bad state of repair** *fml* у дрэ́нным стáне

**repair**[2] [rɪˈpeə] *v.* **1.** рамантавáць, папраўля́ць; **repair a broken fence** адрамантавáць паламáны плот **2.** аднаўля́ць (*адносіны*)

**repay** [rɪˈpeɪ] **(repaid)** *v.* **1.** вярнýць (*пазыку*); **repay a debt/loan** вярнýць доўг/пазы́ку; **repay a mortgage** вы́купіць закладнýю **2.** адплáчваць; узнагарóджваць; **repay smb. for smth.** адплáчваць камý-н. за штó-н. ♦ **repay good for evil** адплацíць дабрóм за зло

**repayable** [rɪˈpeɪəbl] *adj.* які́ падлягáе вы́плаце/кампенсáцыі

**repayment** [rɪˈpeɪmənt] *n.* вяртáнне грóшай; вы́плата (*пазыкі*)

**repeal** [rɪˈpiːl] *v.* анулявáць, адмяня́ць

**repeat**[1] [rɪˈpiːt] *n.* **1.** паўтарэ́нне рáдыё- абó тэлепраграмы; *There will be a repeat of this film on Friday.* Гэты фільм будуць зноў паказваць у пятніцу. **2.** паўтарэ́нне; **a repeat order** паўтóрны закáз **3.** *mus.* паўтарэ́нне асóбных раздзéлаў п'éсы; рэпры́за

**repeat**[2] [rɪˈpiːt] *v.* паўтарáць; паўтарáцца; *Can you repeat your question, please?* Паўтарыце, калі ласка, сваё пытанне.

**repeated** [rɪˈpiːtɪd] *adj.* шматразóвы, чáсты; неаднаразóвы; **repeated attempts** шматразóвыя спрóбы; **on repeated occasions** неаднаразóва

**repeatedly** [rɪˈpiːtɪdli] *adv.* неаднаразóва, шматразóва; *Robert was repeatedly warned by the doctors not to work so hard.* Урачы шмат разоў папярэджвалі Роберта не працаваць так многа.

**repel** [rɪˈpel] *v. fml* **1.** адпíхваць; выклікáць агíду; *Her heavy make-up and cheap scent repelled him.* Тоўсты слой грыму на яе твары і танныя духі выклікалі ў яго агіду. **2.** адбівáць; адганя́ць; **repel an attack** адбíць атáку; **a cream that repels insects** крэм, які́ адганя́е насякóмых **3.** *phys.* адштурхóўваць; адштурхóўвацца

**repellent**[1] [rɪˈpelənt] *n.* рэпелéнт, срóдак ад насякóмых; **mosquito repellent** срóдак ад камарóў

**repellent**[2] [rɪˈpelənt] *adj.* **1.** *fml* **(to)** які́ выклікáе агíду; *Stories about famous villains can be both repellent and fascinating.* Апавяданні пра вядомых злачынцаў бываюць як агідныя, так і захапляльныя. **2.** воданепранікáльны; **repellent materials** воданепранікáльныя матэрыя́лы

**repent** [rɪˈpent] *v. fml* **(of)** раскáйвацца; кáяцца; смуткавáць; *Repent of your sins and you will be forgiven.* Пакайся ў сваіх грахах, і табе даруюць.

**repentance** [rɪˈpentəns] *n.* **(for)** раскáянне; пакая́нне; **show repentance** раскáяцца; *He shows no sign of repentance.* Ён зусім не раскайваецца.

**repentant** [rɪˈpentənt] *adj.* які́ раскáйваецца; *She was not in the least repentant.* Яна нікольки не раскаялася.

**repercussion** [ˌriːpəˈkʌʃn] *n. pl.* **repercussions** рэзана́нс; во́дгук, рэ́ха, во́дгалас; **possible repercussions** магчы́мыя вы́нікі

**repertoire** [ˈrepətwɑː] *n.* **1.** рэпертуа́р (*тэатра, аркестра*) **2.** су́ма на́выкаў, уме́нняў

**repertory** [ˈrepətri] *n.* **1.** тэа́тр з пастая́ннай тру́пай і з пэ́ўным рэпертуа́рам **2.** *fml* рэпертуа́р

**repetition** [ˌrepəˈtɪʃn] *n.* паўтарэ́нне (*у розных знач.*); *I don't want a repetition of this incident.* Я не хачу паўтарэння гэтага інцыдэнту.

**repetitious** [ˌrepəˈtɪʃəs] *adj.* які́ паўтара́ецца

**repetitive** [rɪˈpetətɪv] *adj.* **1.** ну́дны **2.** які́ паўтара́ецца

**rephrase** [ˌriːˈfreɪz] *v.* перафразава́ць, змяня́ць фармулё́ўку

**replace** [rɪˈpleɪs] *v.* **1.** замяня́ць **2. (by/with)** замяшча́ць (*кім-н./чым-н.*); *He was replaced by Tom on the team.* Яго ў камандзе замяніў Том. **3.** кла́сці/вярта́ць на ме́сца; *He replaced the book on the shelf.* Ён паставіў кнігу на месца, на паліцу.

**replacement** [rɪˈpleɪsmənt] *n.* **(for) 1.** замяшчэ́нне, заме́на; *They need to find a replacement for Jane.* Ім трэба знайсці замену Джэйн. **2.** кампенсава́нне; **the replacement of lost books** кампенсава́нне згу́бленых кніг **3.** пераե́мнік; перае́мніца

**replay**[1] [ˈriːpleɪ] *n.* **1.** *sport* перагу́льванне **2.** (паўто́рнае) прайграва́нне за́пісу; паўто́р фрагме́нта (*фільма і да т.п.*)

**replay**[2] [ˌriːˈpleɪ] *v.* **1.** *sport* перагу́льваць, гуля́ць паўто́рна; *The match ended in a draw and will be replayed next Wednesday.* Матч закончыўся ўнічыю і будзе перагульвацца ў наступную сераду. **2.** паўто́рна прайграва́ць (*плёнку, касету і да т.п.*)

**replenish** [rɪˈplenɪʃ] *v. fml* **(with)** зноў напаўня́ць; папаўня́ць

**replicate** [ˈreplɪkeɪt] *v. fml* капі́раваць

**reply**[1] [rɪˈplaɪ] *n.* адка́з; **in reply** у адка́з; **in reply to your letter** у адка́з на ва́ша пісьмо́; **a reply-paid envelope** канве́рт з апла́чаным адка́зам

**reply**[2] [rɪˈplaɪ] *v.* **(to, with)** адка́зваць (*у розных знач.*); **reply to the enemy's fire** адказа́ць на аго́нь праці́ўніка; *He never replied to any of my letters.* Ён не адказаў ні на адно маё пісьмо.

**report**[1] [rɪˈpɔːt] *n.* **1. (on)** дакла́д, справазда́ча; паведамле́нне; **the chairman's report** дакла́д старшыні́; **a weather report** зво́дка надво́р'я **2.** чу́ткі; *According to reports he's not coming back.* Гавораць, што ён не збіраецца вяртацца. **3.** *BrE* та́бель пасняхо́васці

**report**[2] [rɪˈpɔːt] *v.* **1.** паведамля́ць, апавяда́ць, апі́сваць; **the newspapers report** газе́ты паведамля́юць **2. (on)** рабі́ць справазда́чу, рэпарта́ж; *Next week you'll report on your progress.* На наступным тыдні вы раскажаце пра стан спраў. **3.** дане́сці (*на каго-н.*) **4.** з'яўля́цца, прыбыва́ць (*куды-н.*)

**reportage** [rɪˈpɔːtɪdʒ, ˌrepɔːˈtɑːʒ] *n. fml* рэпарта́ж

**reportedly** [rɪˈpɔːtɪdli] *adv.* па паведамле́ннях; як паведамля́юць

**reported speech** [rɪˌpɔːtɪdˈspiːtʃ] *n. ling.* ускосная мо́ва

**reporter** [rɪˈpɔːtə] *n.* рэпарцёр, карэспандэ́нт

**repose**[1] [rɪˈpəʊz] *n. lit.* адпачы́нак, перады́шка; спако́й; **work without repose** працава́ць без адпачы́нку; **disturb smb.'s repose** паруша́ць чый-н. спако́й

**repose**[2] [rɪˈpəʊz] *v. lit.* **1. (on)** ляжа́ць (*на чым-н.*); адпачыва́ць; **repose on a coach** адпачыва́ць на кана́пе; **2.** стая́ць (*на чым-н.*); *Two small glasses reposed on the tray.* Дзве маленькія шклянкі стаялі на падносе. **3. : repose confidence in smb.** давяра́ць каму́-н.

**repository** [rɪˈpɒzətri] *n. fml* умяшча́льня; ёмі́шча; схо́вішча; склад; **a furniture repository** склад для захо́ўвання мэ́блі; *He was the repository of all her secrets.* Яна давярала яму ўсе свае тайны.

**reprehend** [ˌreprɪˈhend] *v. fml* асуджа́ць, га́ніць; **reprehend smb.'s conduct** га́ніць чые́-н. паво́дзіны

**reprehensible** [ˌreprɪˈhensəbl] *adj. fml* зага́нны; гане́бны; ва́рты асуджэ́ння; *His conduct was thoroughly reprehensible.* Яго паводзіны сурова асуджалі.

**reprehension** [ˌreprɪˈhenʃn] *n.* ганьбава́нне; асуджэ́нне

**represent** [ˌreprɪˈzent] *v.* **1.** рэпрэзентава́ць, прадстаўля́ць; **represent the interests** прадстаўля́ць інтарэ́сы; *Many countries were represented by their ambassadors.* Многія краіны былі прадстаўлены сваімі пасламі. **2.** абазнача́ць, увасабля́ць, сімвалізава́ць; *Phonetic signs represent sounds.* Фанетычныя значкі абазначаюць гукі. **3.** адлюстро́ўваць; *What does this picture represent?* Што намалявана на гэтай карціне?

**representation** [ˌreprɪzənˈteɪʃn] *n.* **1.** прадстаўні́цтва; **permanent representation** пастая́ннае прадстаўні́цтва; **proportional representation** прапарцыяна́льнае прадстаўні́цтва **2.** *pl.* **representations** *fml* сцве́рджанне, зая́ва; пратэ́ст; **make representations to smb.** заяві́ць каму́-н. пратэ́ст **3.** адлюстрава́нне; во́браз; **an allegoric representation** алегары́чнае адлюстрава́нне

**representative**[1] [ˌreprɪˈzentətɪv] *n.* **1.** прадстаўні́к, дэлега́т, упаўнава́жаны; **representatives of the press** прадстаўнікі́ прэ́сы **2.** тыпо́вы прадстаўні́к **3. Representative** член пала́ты прадстаўнікоў ЗША

**representative**[2] [ˌreprɪˈzentətɪv] *adj.* **1. (of)** характэ́рны, тыпо́вы, які́ сімвалізу́е; *Are your opinions represantative of the views of all the students?* Ці адлюстроўваюць вашы меркаванні погляды ўсіх студэнтаў? **2.** прадстаўні́чы; які́ ствара́е ўяўле́нне (*аб чым-н.*); **a representative collection of modern art** кале́кцыя карці́н, яка́я дае́ ўяўле́нне аб суча́сным маста́цтве

**repress** [rɪˈpres] *v.* **1.** падаўля́ць, душы́ць; утаймо́ўваць; прыгнята́ць; **repress an uprising** падаві́ць паўста́нне **2.** рэпрэсі́раваць **3.** стры́мліваць (*пачуцці, смех і да т.п.*); **repress tears** стры́мліваць слёзы; *I could hardly repress my laughter.* Я ледзь стрымліваў смех.

**repression** [rɪˈpreʃn] *n.* **1.** рэпрэ́сія; падаўле́нне **2.** стры́мліванне (*пачуццяў, смеху і да т.п.*)

**repressive** [rɪˈpresɪv] *adj.* рэпрэсі́ўны; **a repressive regime/law** рэпрэсі́ўны рэжы́м/зако́н; **a repressive measure** рэпрэсі́ўная ме́ра

**reprieve**[1] [rɪˈpri:v] *n.* **1.** адтэрміно́ўка выкана́ння смяро́тнага прысу́ду **2.** перады́шка, часо́вая палёгка (*у цяжкасцях, клопатах*)

**reprieve**[2] [rɪˈpri:v] *v.* **1.** адтэрміно́ўваць выкана́нне смяро́тнага прысу́ду **2.** дава́ць перады́шку; часо́ва аблягча́ць (*боль, пакуты і да т.п.*)

**reprimand**[1] [ˈreprɪmɑ:nd] *n.* вымо́ва, заўва́га

**reprimand**[2] [ˈreprɪmɑ:nd] *v. fml* **(for)** рабі́ць/аб’яўля́ць вымо́ву; **be reprimanded by smb. for smth.** атрыма́ць вымо́ву ад каго́-н. за што-н.

**reprint**[1] [ˈri:prɪnt] *n.* рэпры́нт, перадру́к; но́вае выда́нне; *It was an abridged reprint of the 1817 edition.* Гэта быў скарочаны перадрук выдання 1817 года.

**reprint**[2] [ˌri:ˈprɪnt] *v.* перавыдава́ць; перадрукоўваць

**reproach**[1] [rɪˈprəʊtʃ] *n.* **1.** папро́к, дако́р; **above/beyond reproach** беззага́нны; **a life without reproach** бездако́рнае жыццё **2.** га́ньба, со́рам; **give smb. a look of reproach** паглядзе́ць на каго́-н. з дако́рам

**reproach**[2] [rɪˈprəʊtʃ] *v.* **(for)** папрака́ць, дакара́ць, папіка́ць, упіка́ць; *You’ve got nothing to reproach yourself for.* Вам няма ў чым папракнуць сябе.

**reproachful** [rɪˈprəʊtʃfəl] *adj.* дако́рлівы; **a reproachful glance** дако́рлівы по́зірк

**reprobate**[1] [ˈreprəbeɪt] *n. fml* няго́днік; пага́нец

**reprobate**[2] [ˈreprəbeɪt] *adj.* амара́льны, разбэ́шчаны, распу́сны

**reproduce** [ˌri:prəˈdju:s] *v.* **1.** узнаўля́ць; рэпрадуктава́ць **2.** пладзі́ць; размнажа́цца, размно́жвацца

**reproduction** [ˌri:prəˈdʌkʃn] *n.* **1.** размнажэ́нне **2.** узнаўле́нне **3.** рэпраду́кцыя, ко́пія; **exact reproductions of famous statues** дакла́дныя ко́піі вядо́мых скульпту́р

**reproductive** [ˌri:prəˈdʌktɪv] *adj.* **1.** узнаўле́нчы **2. :** *biol.* **reproductive organs** о́рганы размнажэ́ння

**reproof** [rɪˈpru:f] *n. fml* вымо́ва; папро́к, дако́р

**reprove** [rɪˈpru:v] *v. fml* **(for)** рабі́ць вымо́ву; дакара́ць, папіка́ць; свары́цца (*на каго-н.*); *I was reproved for wasting paper.* Мне зрабілі вымову за расходаванне паперы.

**reptile** [ˈreptaɪl] *n.* **1.** *zool.* рэпты́лія; паўзу́н **2.** падхалі́м, ліслі́вец

**republic** [rɪˈpʌblɪk] *n.* рэспу́бліка

**republican** [rɪˈpʌblɪkən] *n.* **1.** рэспубліка́нец **2. Republican** член рэспубліка́нскай па́ртыі

**Republican Party** [rɪˈpʌblɪkənˌpɑ:ti] *n.* **the Republican Party** рэспубліка́нская па́ртыя (*у ЗША*)

**repudiate** [rɪˈpju:dieɪt] *v. fml* **1.** адрака́цца, вырака́цца; **repudiate one’s former friends** адрака́цца ад (сваі́х) стары́х сябро́ў **2.** не прыма́ць, не прызнава́ць

**repugnance** [rɪˈpʌgnəns] *n. fml* агі́да, антыпа́тыя; **have repugnance to smth.** адчува́ць антыпа́тыю да чаго́-н.

**repugnant** [rɪˈpʌgnənt] *adj. fml* агі́дны, бры́дкі

**repulse**[1] [rɪˈpʌls] *n. fml* адпо́р, адбіццё, адбіва́нне (*атакі*); **suffer a repulse** цярпе́ць паражэ́нне

**repulse**[2] [rɪˈpʌls] *v. fml* **1.** адбіва́ць; **repulse an attack** адбіва́ць ата́ку **2.** выкліка́ць агі́ду, адваро́чваць **3.** адхіля́ць, не прыма́ць; *He offered to help but was repulsed.* Ён прапанаваў дапамагчы, але яго прапанову не прынялі.

**repulsion** [rɪˈpʌlʃn] *n.* **1.** агі́да, антыпа́тыя **2.** *phys.* адштурхо́ўванне

**repulsive** [rɪˈpʌlsɪv] *adj.* **1.** які́ адштурхо́ўвае, выкліка́е агі́ду **2.** *phys.* які́ адштурхо́ўвае

**reputable** [ˈrepjətəbl] *adj.* паважа́ны; шано́ўны; **a reputable scientist** паважа́ны вучо́ны

**reputation** [ˌrepjuˈteɪʃn] *n.* **1.** рэпута́цыя, сла́ва; **a good/bad reputation** до́брая/дрэ́нная рэпута́цыя; **have a reputation for honesty** сла́віцца сумле́ннасцю **2.** до́брае імя́, до́брая сла́ва; *She has lost her reputation.* Яна страціла сваё добрае імя.

**repute**[1] [rɪˈpju:t] *n. fml* рэпута́цыя; до́брая сла́ва; **a writer of repute** пісьме́ннік з і́мем; *I know him by repute.* Я ведаю пра яго па чутках.

**repute**[2] [rɪˈpjuːt] *v.* **:** *He is reputed to be a good doctor.* Яго лічаць добрым урачом.
**reputedly** [rɪˈpjuːtɪdli] *adv.* на агу́льную ду́мку
**request**[1] [rɪˈkwest] *n.* **1.** про́сьба, (ве́тлівае) патрабава́нне; **at smb.'s request** па чыёй-н. про́сьбе; **a request for smth.** патрабава́нне чаго́-н.; **on request** па про́сьбе **2.** за́пыт; зая́ўка; **a request programme** канцэ́рт па зая́ўках
**request**[2] [rɪˈkwest] *v. fml* прасі́ць (*дазволу*)
**requiem** [ˈrekwiəm] *n.* рэ́квіем, памiна́льная ме́са
**require** [rɪˈkwaɪə] *v. fml* **1.** патрабава́ць, зага́дваць; *I have done all that is required.* Я зрабіў усё, што патрабуецца. **2.** мець патрэ́бу (*у чым-н.*); *Have you got all you require?* У вас ёсць усё, што вам патрэбна? ♦ **if required** у вы́падку неабхо́днасці, пры неабхо́днасці
**requirement** [rɪˈkwaɪəmənt] *n. fml* **1.** патрабава́нне; неабхо́дная ўмо́ва; *The new computer system will meet all our requirements.* Новая камп'ютарная сістэма задаволіць усе нашы запатрабаванні. **2.** патрэ́ба, неабхо́днасць; **daily requirements** штодзённыя патрэ́бы; **meet/fulfil/satisfy the requirements** задавальня́ць патрэ́бы
**requisite**[1] [ˈrekwɪzɪt] *n. fml* неабхо́дная рэч; **kitchen requisite** кухо́нны по́суд
**requisite**[2] [ˈrekwɪzɪt] *adj. fml* неабхо́дны, патрэ́бны; *He lacks the requisite qualifications.* Яму нестае неабходнай падрыхтоўкі.
**requisition**[1] [ˌrekwɪˈzɪʃn] *n.* зая́ўка; **a requisition form/order** зая́ўка
**requisition**[2] [ˌrekwɪˈzɪʃn] *v.* рэквізава́ць
**rerun**[1] [ˈriːrʌn] *n.* **1.** паўто́рны пака́з кінафі́льма; паўто́рная тэлеперада́ча **2.** паўто́р (*якога-н. мерапрыемства*); **a rerun of elections** перавы́бары
**rerun**[2] [ˌriːˈrʌn] *v.* **1.** паўто́рна пака́зваць (*фільм і да т.п.*) **2.** паўтара́ць (*мерапрыемства*); **rerun a race** паўтары́ць забе́г
**resale** [ˈriːseɪl, riːˈseɪl] *n.* перапро́дaж
**resat** [ˌriːˈsæt] *past, p.p.* → **resit**[2]
**rescind** [rɪˈsɪnd] *v. fml* анулява́ць, абвяшча́ць несапра́ўдным
**rescission** [rɪˈsɪʒn] *n. fml* анулява́нне; скасава́нне
**rescue**[1] [ˈreskjuː] *n.* выратава́нне, вызвале́нне, збаве́нне, пазбаўле́нне; **a rescue boat** выратава́льная ло́дка
**rescue**[2] [ˈreskjuː] *v.* **(from)** ратава́ць, вырато́ўваць, вызваля́ць
**research**[1] [rɪˈsɜːtʃ, ˈriːsɜːtʃ] *n.* **(into/on)** дасле́даванне, вывучэ́нне, по́шук; навуко́ва-дасле́дчая рабо́та; *Jane is a research worker in our lab.* Джэйн – навуковы супрацоўнік нашай лабараторыі.
**research**[2] [rɪˈsɜːtʃ] *v.* **(into/on)** дасле́даваць, займа́цца дасле́даваннем
**researcher** [rɪˈsɜːtʃə] *n.* дасле́дчык; дасле́дчыца
**resell** [ˌriːˈsel] *v.* **(resold)** перапрадава́ць
**resemblance** [rɪˈzembləns] *n.* **(to, between)** падабе́нства; **bear no resemblance to smb.** быць зусі́м не падо́бным да каго́-н.
**resemble** [rɪˈzembl] *v.* быць падо́бным (*да каго-н./на што-н.*); мець падабе́нства; *Nick closely resembles his father.* Нік вельмі падобны да свайго бацькі.
**resent** [rɪˈzent] *v.* абура́цца, гне́вацца; *Does he resent my being here?* Яму не падабаецца, што я тут?
**resentful** [rɪˈzentfəl] *adj.* **(of/at/about)** абу́раны; по́ўны абурэ́ння; гне́ўны; **a resentful look** гне́ўны по́зірк
**resentment** [rɪˈzentmənt] *n.* абурэ́нне, пачуццё крыў́ды; **bear/feel no resentment against/towards anyone** не адчува́ць крыў́ды ні на каго́
**reservation** [ˌrezəˈveɪʃn] *n.* **1.** папярэ́дні зака́з; рэзервава́нне; **make a reservation** забрані́раваць ме́сца **2.** *таксама* **reserve** рэзерва́цыя; **Indian reservation** індзе́йская рэзерва́цыя **3.** агаво́рка; **without reservations** без агаво́рак
**reserve**[1] [rɪˈzɜːv] *n.* **1.** запа́с, рэзе́рв; **the gold reserve** залаты́ запа́с **2.** запаве́днік **3.** стры́манасць; замкну́тасць **4.** *sport* запасны́ (ігро́к) **5.** *mil.* запа́с, рэзе́рв **6.** агаво́рка ♦ **in reserve** у запа́се; *We always keep some money in reserve, just in case.* У нас заўсёды ёсць у запасе грошы, калі што якое.
**reserve**[2] [rɪˈzɜːv] *v.* **1.** **(for)** рэзервава́ць; брані́раваць; зака́зваць за́гадзя; *I'd like to reserve a table for two.* Я хачу заказаць столік на дваіх. **2.** адклада́ць, запа́сіць, пакіда́ць **3. : reserve judgement** адкла́дваць рашэнне **4. : reserve the right** захо́ўваць пра́ва
**reserved** [rɪˈzɜːvd] *adj.* **1.** замкнёны, замкну́ты; стры́маны; *Ellen was a shy, reserved girl.* Элен была сарамлівая, замкнёная дзяўчынка. **2.** зарэзервава́ны, зака́заны за́гадзя
**reservist** [rɪˈzɜːvɪst] *n.* рэзерві́ст; ваеннаабавя́заны, які́ знахо́дзіцца ў запасе
**reservoir** [ˈrezəvwaː] *n.* **1.** басе́йн; вадаём; вадасхо́вішча **2.** рэзервуа́р **3.** *fml* запа́с
**resettle** [ˌriːˈsetl] *v.* перасяля́ць; перасяля́цца
**resettlement** [ˌriːˈsetlmənt] *n.* рассяле́нне, перасяле́нне (*у іншае месца*)
**reshuffle**[1] [ˈriːʃʌfl] *n.* перастано́ўка; **a Cabinet reshuffle** перастано́ўка ў кабіне́це міні́страў
**reshuffle**[2] [ˌriːˈʃʌfl] *v.* право́дзіць перастано́ўку (*ва ўрадзе*)

**reside** [rɪˈzaɪd] *v. fml* **1.** пражыва́ць, жыць; знахо́дзіцца, быць **2. : reside in smb./smth.** быць уласці́вым каму́-н./чаму́-н.

**residence** [ˈrezɪdəns] *n. fml* **1.** рэзідэ́нцыя, дом **2.** месцажыха́рства **3.** пражыва́нне; *John is in residence at Oxford.* Джон жыве пры Оксфардскім універсітэце.

**resident[1]** [ˈrezɪdənt] *n.* **1.** пастая́нны жыха́р; пастая́лец (*у гасці́ніцы*) **2.** рэзідэ́нт

**resident[2]** [ˈrezɪdənt] *adj.* які́ пастая́нна пражыва́е; **the resident population** пастая́ннае насе́льніцтва; **a resident representative** пастая́нны прадстаўні́к

**residential** [ˌrezɪˈdenʃl] *adj.* жылы́; **a quiet residential area** ці́хі жылы́ раён

**resign** [rɪˈzaɪn] *v.* **1. (from)** адмаўля́цца (*ад права, пасады, абавязку і да т.п.*) **2.** пайсці́ ў адста́ўку **3. (to)** скары́цца (*чаму-н.*); *Ted resigned himself to his fate.* Тэд скарыўся свайму лёсу.

**resignation** [ˌrezɪgˈneɪʃn] *n.* **1.** адмаўле́нне ад паса́ды; адста́ўка; **hand in one's resignation** пада́ць зая́ву аб адста́ўцы **2.** пако́рлівасць; пако́ра; пако́рнасць

**resigned** [rɪˈzaɪnd] *adj.* пако́рны, пако́рлівы; *There was a resigned look on her face.* Яе твар выказваў пакорлівасць.

**resin** [ˈrezɪn] *n.* смала́; каніфо́ль; **synthetic resin** шту́чная смала́; пластма́са

**resist** [rɪˈzɪst] *v.* **1.** супраціўля́цца; праці́віцца; процідзе́йнічаць **2.** не паддава́цца; процістая́ць; *This metal resists acid.* Гэты метал не акісляецца. **3.** устры́мліваццa

**resistance** [rɪˈzɪstəns] *n.* **1. (to)** супраціўле́нне; *There has been a lot of resistance to this new law.* Многія пратэставалі супраць гэтага новага закона. **2.** супраціўля́льнасць; *Vitamins can build up your resistance to colds.* Вітаміны могуць дапамагчы выпрацаваць у вас устойлівасць да хвароб прастуднага характару. **3.** *electr.* супраціўле́нне

**resistant** [rɪˈzɪstənt] *adj.* **(to)** які́ супраціўля́ецца; сто́йкі; **resistant to heat** гарачаўсто́йлівы; **fire-resistant materials** вогнетрыва́лыя матэрыя́лы; *This type of flu is resistant to antibiotics.* На грып гэтага тыпу антыбіётыкі не дзейнічаюць.

**resistor** [rɪˈzɪstə] *n. phys.* рэзі́стар, кату́шка супраціўле́ння

**resit[1]** [ˈriːsɪt] *n.* перазда́ча экза́мену, пераэкзаменó́ўка

**resit[2]** [ˌriːˈsɪt] *v.* **(resat)** пераздава́ць экза́мен

**resold** [ˌriːˈsəʊld] *past, p.p.* → **resell**

**resolute** [ˈrezəluːt] *adj.* цвёрды, рашу́чы; по́ўны рашу́часці; *He is resolute in his decision.* Яго рашэнне беспаваротнае.

**resolution** [ˌrezəˈluːʃn] *n.* **1.** рэзалю́цыя, пастанаўле́нне; **pass/adopt/carry a resolution** выно́сіць рэзалю́цыю **2.** рашу́часць

**resolve[1]** [rɪˈzɒlv] *n. fml* рашу́часць; рашэ́нне, наме́р; **make a resolve** прыня́ць рашэ́нне; *His encouragement and support strengthened our resolve.* Яго падбадзёрванне і падтрымка ўмацавалі нашу рашучасць.

**resolve[2]** [rɪˈzɒlv] *v. fml* **1. (on/upon)** раша́ць, прыма́ць рашэ́нне, раша́цца зрабі́ць (*што-н.*); *They resolved on making one more attempt.* Яны вырашылі зрабіць яшчэ адну спробу. **2.** вырашáць (*канфлікт, праблему і да т.п.*); *The problem has not yet been resolved.* Праблема яшчэ не вырашана.

**resonance** [ˈrezənəns] *n. fml* рэзана́нс

**resort[1]** [rɪˈzɔːt] *n.* **1.** куро́рт; ме́сца адпачы́нку; **a seaside/ski/mountain resort** марскі́/лы́жны/ го́рны куро́рт **2.** надзе́я; вырaтава́льная ме́ра; *An operation was the only resort.* Аперацыя была адзінай надзеяй. ♦ **in the last resort** у кра́йнім вы́падку; нарэ́шце, у рэ́шце рэшт

**resort[2]** [rɪˈzɔːt] *v.* **(to)** звярта́цца (*да чаго-н.*); *When polite requests failed Paul resorted to threats.* Калі ветлівыя просьбы не дапамаглі, Пол стаў пагражаць.

**resound** [rɪˈzaʊnd] *v. fml* **1.** гуча́ць **2. (with/to)** напаўня́цца (*гукамі, крыкамі*); адгука́цца рэ́хам

**resounding** [rɪˈzaʊndɪŋ] *adj.* **1. : resounding success** шу́мны по́спех **2.** рэзана́нсны (*пра гук*)

**resource** [rɪˈsɔːs, rɪˈzɔːs] *n.* **1.** *звыч. pl.* **resources** запа́сы, рэсу́рсы, сро́дкі; магчы́масці; **natural resources** прыро́дныя рэсу́рсы; *Martin has inner resources.* У Марціна ёсць запас духоўных сіл. **2.** знахо́длівасць; вынахо́длівасць; **a man of great resource** знахо́длівы чалаве́к

**resourceful** [rɪˈsɔːsfəl, rɪˈzɔːsfəl] *adj.* знахо́длівы, вынахо́длівы

**respect[1]** [rɪˈspekt] *n.* **1. (for)** пава́га; паша́на; *She won the respect of everyone.* Яна заслужыла ўсеагульную павагу. **2.** *pl.* **respects** прывіта́нне, шанава́нне; *Give my respects to your wife.* Перадай ад мяне прывітанне сваёй жонцы. ♦ **in respect of/with respect to** *fml* што даты́чыцца, што да…; **pay one's respect to smb.** выка́зваць каму́-н. сваю́ пашáну; **without respect to** не прыма́ць пад ува́гу, не прыма́ючы пад ува́гу

**respect[2]** [rɪˈspekt] *v.* **1. (for)** паважа́ць, шанава́ць **2.** выко́нваць, не паруша́ць; **respect the law** не паруша́ць закон

**respectability** [rɪˌspektəˈbɪləti] *n.* рэспекта́бельнасць; шано́ўнасць

**respectable** [rɪˈspektəbl] *adj.* **1.** паважа́ны, шано́ўны, рэспекта́бельны **2.** прысто́йны, прыма́льны, дапушча́льны; **a respectable hotel** рэспекта́бельны атэ́ль; **a respectable salary** прысто́йная зарпла́та

**respected** [rɪˈspektɪd] *adj.* паважа́ны; **a highly respected journalist** ве́льмі паважа́ны журналі́ст

**respectful** [rɪˈspektfəl] *adj.* пачці́вы, ве́тлівы

**respective** [rɪˈspektɪv] *adj.* адпаве́дны; *The workers were given work according to their respective abilities.* Рабочым была даручана работа ў адпаведнасці з іх кваліфікацыяй.

**respectively** [rɪˈspektɪvli] *adv.* адпаве́дна; у прызна́чаным пара́дку; *The first, the second prizes went to John and Mary respectively.* Джон і Мэры атрымалі адпаведна першую і другую прэміі.

**respiration** [ˌrespəˈreɪʃn] *n. fml* дыха́нне; **normal/artificial respiration** нарма́льнае/штý чнае дыха́нне

**respirator** [ˈrespəreɪtə] *n.* **1.** *med.* прыбо́р для штý чнага дыха́ння; *She was put on a respirator.* Яе падключылі да апарата штучнага дыхання. **2.** процівага́з, рэспіра́тар

**respiratory** [rəˈspɪrətri, ˈrespərətri] *adj.* рэспірато́рны; ды́хальны; **respiratory diseases** рэспірато́рныя захво́рванні

**respite** [ˈrespaɪt] *n.* **1.** перады́шка; *They continued to work without respite.* Яны працягвалі працаваць без перадышкі. **2.** **(from)** адтэрміно́ўка

**respond** [rɪˈspɒnd] *v. fml* **1.** **(to, with)** адка́зваць; рабі́ць (*што-н.*) у адка́з **2.** рэагава́ць; адкліка́цца, адгу́квацца (*на што-н.*); *Her disease failed to respond to treatment.* Яе хвароба не паддавалася лячэнню.

**respondent** [rɪˈspɒndənt] *n.* **1.** *law* адка́зчык; адка́зчыца **2.** рэспандэ́нт; апыта́ны; *60% of the respondents agreed to the question.* Шэсцьдзясят працэнтаў рэспандэнтаў станоўча адказалі на пытанне.

**response** [rɪˈspɒns] *n.* **1.** адка́з; **in response to** у адка́з на; *He made no response.* Ён нічога не адказаў. **2.** рэа́кцыя, рэагава́нне; **a positive response** станоўчае рэагава́нне

**responsibility** [rɪˌspɒnsəˈbɪləti] *n.* **1.** **(for)** адка́знасць; **take/assume responsibility** браць на сябе́ адка́знасць; **a sense of responsibility** пачуццё адка́знасці **2.** абавя́зак, абавяза́цельства

**responsible** [rɪˈspɒnsəbl] *adj.* **1.** **(for)** адка́зны; які́ нясе́ адка́знасць; *He should be responsible for his actions.* Ён павінен адказваць за свае дзеянні. **2.** надзе́йны, яко́му мо́жна давяра́ць; **from responsible sources** з надзе́йных крыні́ц **3.** адка́зны, ва́жны; **a responsible job** адка́зная рабо́та

**responsibly** [rɪˈspɒnsəbli] *adv.* адка́зна; **act/behave responsibly** дзе́йнічаць/паво́дзіць сябе́ адка́зна

**responsive** [rɪˈspɒnsɪv] *adj.* **(to)** **1.** чу́лы, спага́длівы **2.** успры́млівы, успрыма́льны; **a flu virus that is not responsive to treatment** ві́рус гры́пу, які́ не паддае́цца лячэ́нню

**rest**[1] [rest] *n.* **1.** спако́й; адпачы́нак; сон; **without rest** без адпачы́нку; **have/take a rest** адпачыва́ць, спаць **2.** *mus.* па́ўза ♦ **at rest** у ста́не спако́ю

**rest**[2] [rest] *v.* **1.** адпачыва́ць; спаць **2.** дава́ць адпачы́нак (*у розных знач.*); *The matter cannot rest there.* Гэтую справу нельга так пакінуць. **3.** **(on/upon)** апіра́цца (*на што-н.*); *Rest your hand on my shoulder.* Трымайся за маё пляче. ♦ **rest assured (that…)** *fml* быць упэ́ўненым, што…

**rest**[3] [rest] *n.* **: the rest (of)** рэ́штка, рэ́шткі ♦ **and (all) the rest (of it)** *infml* і ўсё і́ншае

**restaurant** [ˈrestrɒnt] *n.* рэстара́н

**restaurant car** [ˈrestrɒntˌkɑː] *n. BrE* ваго́н-рэстара́н

**restaurateur** [ˌrestərəˈtɜː] *n. fml* ула́да́льнік рэстара́на; рэстара́тар

**rest cure** [ˈrestkjʊə] *n.* лячэ́нне спако́ем

**restful** [ˈrestfəl] *adj.* які́ заспако́йвае, супако́йвае

**rest home** [ˈresthəʊm] *n.* **1.** інтэрна́т для інвалі́даў і састарэ́лых **2.** санато́рый

**resting place** [ˈrestɪŋˌpleɪs] *n.* **1.** ме́сца спачы́ну; **her final/last resting place** яе́ магі́лка **2.** ме́сца адпачы́нку

**restitution** [ˌrestɪˈtjuːʃn] *n.* **(of, to)** **1.** *fml* вярта́нне зако́ннаму ўлада́льніку (*маёмасці*) **2.** *law* пакрыццё страт; **make restitution** пакры́ць стра́ты

**restless** [ˈrestləs] *adj.* **1.** неспако́йны, неўтаймава́ны; *The audience was getting restless.* Гледачы сталі праяўляць нецярплівасць. **2.** неспако́йны, трыво́жны; **a restless night** бяссо́нная ноч; **a restless eye** трыво́жны по́зірк

**restoration** [ˌrestəˈreɪʃn] *n.* **1.** рэстаўра́цыя, рэканстру́кцыя **2.** аднаўле́нне; **the restoration of diplomatic relations between the two countries** аднаўле́нне дыпламаты́чных зно́сін памі́ж дзвюма́ краі́намі **3.** **the Restoration** Рэстаўра́цыя, эпо́ха Рэстаўра́цыі

**restore** [rɪˈstɔː] *v.* **1.** аднаўля́ць; адраджа́ць; **restore customs** адраджа́ць звы́чаі; *The public order was quickly restored.* Грамадскі парадак

быў хутка адноўлены. **2.** рэстаўры́раваць; адбудо́ўваць; **restore a picture/palace** рэстаўры́раваць карці́ну/пала́ц **3.** вярта́ць; аддава́ць наза́д; **restore smb.'s property** вярну́ць чыю-н. маёмасць **4.** вярта́цца ў ранейшы стан; *She's now fully restored.* Яна поўнасцю паправілася.

**restorer** [rɪˈstɔːrə] *n.* рэстаўра́татар

**restrain** [rɪˈstreɪn] *v.* **1. (from)** стры́мліваць; стры́млівацца; утаймо́ўваць; *She could hardly restrain herself from laughing.* Яна ледзь стрымлівала сябе, каб не засмяяцца. **2.** абмяжо́ўваць; стры́мліваць; *The government is taking steps to restrain inflation.* Урад прымае меры, каб стрымаць інфляцыю.

**restrained** [rɪˈstreɪnd] *adj.* стры́маны; спако́йны; **a restrained smile** стры́маная ўсме́шка; **a restrained colour** спако́йны ко́лер

**restraint** [rɪˈstreɪnt] *n.* **1. (on)** абмежава́нне; **without restraint** без абмежава́нняў; **restraint on the export of some products** абмежава́нні на э́кспарт некато́рых праду́ктаў **2.** стры́манасць **3.** утаймава́нне

**restrict** [rɪˈstrɪkt] *v.* **(to)** абмяжо́ўваць; **restrict to a diet** прытры́млівацца дые́ты; *Speed is restricted to 30 miles per hour in towns.* У гарадах хуткасць абмежавана да 30 міль у гадзіну.

**restricted** [rɪˈstrɪktɪd] *adj.* **1.** ву́зкі, абмежава́ны; **a restricted space** абмежава́ная прасто́ра **2.** абмежава́ны (*правіламі, законамі*); *The tournament is restricted to players under the age of 23.* У турніры не дазваляецца ўдзельнічаць ігракам, якім не споўнілася 23 гады.

**restriction** [rɪˈstrɪkʃn] *n.* **(on)** абмежава́нне; **restrictions on immigration** абмежава́нні на іміргра́цыю; **import restrictions** абмежава́нні на і́мпарт; **speed restrictions** абмежава́нні ху́ткасці

**result¹** [rɪˈzʌlt] *n.* **1. (of)** вы́нік; сле́дства; **in the result** урэ́шце, у рэ́шце рэшт; **without result** безвынíко́ва

**result²** [rɪˈzʌlt] *v.* **1. (from)** вынíка́ць, адбыва́цца ў вы́ніку (*чаго-н.*); *Nothing has resulted from my efforts.* З маіх намаганняў нічога не выйшла. **2. (in)** канча́цца (*чым-н.*); мець (сваі́м) вы́нікам; *It was an accident that resulted in the death of two passengers.* У выніку аварыі загінулі два пасажыры.

**resume** [rɪˈzuːm, rɪˈzjuːm] *v. fml* **1.** аднаўля́ць; праця́гваць; *The House of Commons resumed yesterday.* Учора палата абшчын аднавіла сваю работу. **2. : resume one's place/seat/position** заня́ць ранейшае ме́сца

**résumé** [ˈrezjumeɪ] *n.* **1.** рэзюмэ́; **a brief résumé of events** каро́ткая зво́дка падзе́й **2.** *AmE* каро́ткая біягра́фія

**resumption** [rɪˈzʌmpʃn] *n. fml* аднаўле́нне; **the resumption of peace talks** аднаўле́нне мі́рных перамо́ў

**resurgence** [rɪˈsɜːdʒəns] *n.* адраджэ́нне; **the resurgence of fascism** адраджэ́нне фашы́зму

**resurrect** [ˌrezəˈrekt] *v.* **1.** адраджа́ць; уваскраша́ць; аднаўля́ць **2.** уваскраса́ць з мёртвых, ажыва́ць

**resurrection** [ˌrezəˈrekʃn] *n.* **1.** *eccl.* **the Resurrection** уваскрэ́сенне Хрыста́; уваскрэ́сенне з мёртвых **2.** аднаўле́нне; адраджэ́нне; уваскрашэ́нне

**resuscitate** [rɪˈsʌsɪteɪt] *v.* ажыўля́ць; вярта́ць да жыцця́; рэанімава́ць; *The doctors resuscitated him from apparent death.* Урачы вывелі яго са стану клінічнай смерці.

**resuscitation** [rɪˌsʌsɪˈteɪʃn] *n.* ажыўле́нне; рэаніма́цыя; вярта́нне да жыцця́; прывядзе́нне ў прыто́мнасць; **the resuscitation of economy** аднаўле́нне эканомікі

**retail¹** [ˈriːteɪl] *n.* ро́знічны га́ндаль; **sell by retail** прадава́ць у ро́зніцу; **retail prices** ро́знічныя цэ́ны

**retail²** [ˈriːteɪl] *v.* прадава́ць у ро́зніцу; прадава́цца ў ро́зніцу

**retailer** [ˈriːteɪlə] *n.* ро́знічны гандля́р; кра́мнік

**retailing** [ˈriːteɪlɪŋ] *n.* ро́знічны га́ндаль

**retain** [rɪˈteɪn] *v. fml* **1.** утры́мліваць; захо́ўваць; **retain independence** утры́мліваць незале́жнасць **2.** захо́ўваць у па́мяці **3.** *law* найма́ць (*адваката*)

**retake¹** [ˈriːteɪk] *n.* **1.** дубль, паўто́рная зды́мка **2.** пераэкзамено́ўка

**retake²** [ˌriːˈteɪk] *v.* **(retook, retaken) 1.** зноў узя́ць, заня́ць, захапі́ць; *Rebels have retaken the city.* Паўстанцы зноў захапілі горад. **2.** зноў здава́ць экза́мен у вы́падку яго́ права́лу

**retaken** [ˌriːˈteɪkən] *p.p.* → **retake²**

**retaliate** [rɪˈtælieɪt] *v.* адпла́чваць (тым жа са́мым); по́мсціць; прыма́ць ме́ры ў адка́з; **retaliate an insult** адка́зваць абра́зай на абра́зу

**retaliation** [rɪˌtæliˈeɪʃn] *n.* адпла́та, по́мста; **in retaliation for smth.** у адка́з на што-н.

**retard** [rɪˈtɑːd] *v. fml* запаво́льваць, замару́джваць; затры́мліваць; **retard development/progress** стры́мліваць развіццё/прагрэ́с

**retell** [ˌriːˈtel] *v.* **(retold)** перака́зваць

**retention** [rɪˈtenʃn] *n. fml* **1.** утры́мліванне, утрыма́нне, захава́нне; **retention of fluid** затры́мка ва́дкасці; **the retention of power** утрыма́нне ўла́ды **2.** здо́льнасць запаміна́ць, па́мяць

**retentive** [rɪˈtentɪv] *adj.* учэ́пісты (*перан.*), які́ до́бра запаміна́е; **a retentive memory** учэ́пістая па́мяць

**rethink**[1] [ˈriːθɪŋk] *n.* перагля́д; но́вы падыхо́д; **a rethink of policy** перагля́д палі́тыкі

**rethink**[2] [ˌriːˈθɪŋk] *v.* **(rethought)** перагле́джваць (*меркаванне*, *рашэнне*, *думку*); *We have an opportunity to rethink our campaign strategy.* У нас ёсць магчымасць парагледзець стратэгію нашай кампаніі.

**rethought** [ˌriːˈθɔːt] *past, p.p.* → **rethink**[2]

**reticent** [ˈretɪsnt] *adj.* маўклі́вы; скры́тны; стры́маны; *She's naturally reticent even with some of her closest friends.* Яна па характары скрытная, нават са сваімі лепшымі сябрамі.

**retina** [ˈretɪnə] *n. anat.* (*pl.* **retinas** *or* **retinae**) сятча́тка

**retinae** [ˈretɪniː] *n. pl.* → **retina**

**retinue** [ˈretɪnjuː] *n.* сві́та, эско́рт

**retire** [rɪˈtaɪə] *v.* **1. (from)** пайсці́ на пе́нсію; пайсці ў адста́ўку; *He had to retire early from his post because of poor health.* Ён быў вымушаны рана пакінуць пасаду з-за дрэннага стану здароўя. **2.** *sport* пакі́нуць по́ле; сысці́ з дыста́нцыі **3.** *fml* адыхо́дзіць, адасабля́цца **4.** *mil.* адыхо́дзіць, адступа́ць

**retired** [rɪˈtaɪəd] *adj.* адстаўны́; які́ пайшо́ў на пе́нсію; *John is retired now.* Джон на пенсіі.

**retirement** [rɪˈtaɪəmənt] *n.* **1.** адста́ўка; адыхо́д у адста́ўку; адыхо́д на пе́нсію; **in retirement** у адста́ўцы; **retirement age** пенсіённы ўзрост **2.** адасо́бленасць

**retiring** [rɪˈtaɪərɪŋ] *adj.* сці́плы; сарамлі́вы; *As a child Elisabeth was very retiring.* У дзяцінстве Элізабэт была вельмі сціплая.

**retold** [ˌriːˈtəʊld] *past, p.p.* → **retell**

**retook** [ˌriːˈtʊk] *past* → **retake**[2]

**retort**[1] [rɪˈtɔːt] *n.* **1.** пярэ́чанне; рэ́зкі адка́з; **in retort** у адка́з **2.** дасці́пная, тра́пная рэ́пліка

**retort**[2] [rɪˈtɔːt] *v.* адка́зваць рэ́зка; "*It's all your fault,*" *he retorted.* «Гэта цалкам твая віна», – адрэзаў ён.

**retrace** [rɪˈtreɪs] *v.* **1.** вярта́цца (*па пройдзеным шляху*); **retrace one's steps** вярта́цца той жа даро́гай **2.** паўтары́ць падаро́жжа, зро́бленае кі́мсьці (*у мінулым*); *We'll be retracing the route taken by Marco Polo.* Мы адправімся ў падарожжа па маршруце, якім прайшоў Марка Пола. **3.** прасачы́ць, аднаві́ць у па́мяці (*працэс развіцця*)

**retract** [rɪˈtrækt] *v.* **1.** *fml* браць наза́д (*слова*); адрака́цца, адмаўля́цца (*ад абяцання, пагаднення і да т.п.*) **2.** уця́гваць; уця́гвацца; **retract chassis** прыма́ць шасі́

**retraction** [rɪˈtrækʃn] *n.* **1.** *fml* адрачэ́нне ад сваі́х слоў; адмо́ва ад свайго́ абяца́ння **2.** уця́гванне

**retrain** [ˌriːˈtreɪn] *v.* перападрыхто́ўваць; перападрыхто́ўвацца; прахо́дзіць перападрыхто́ўку

**retreat**[1] [rɪˈtriːt] *n.* **1.** адступле́нне; адыхо́д; *The army was in full retreat.* Армія адступала па ўсім фронце. **2. (from/into)** адасабле́нне; само́та; **a retreat from public life** адыхо́д ад грама́дскага жыцця́ **3.** прыста́нішча, прыту́лак; **a country retreat** ле́цішча, да́чны до́мік

**retreat**[2] [rɪˈtriːt] *v.* адступа́ць, адыхо́дзіць; аддаля́цца; пакіда́ць; *The rebels retreated, pursued by government troops.* Паўстанцы адступілі пад націскам урадавага войска.

**retrench** [rɪˈtrentʃ] *v. fml* скарача́ць, ураза́ць; экано́міць; **retrench expenditure** скарача́ць выда́ткі

**retribution** [ˌretrɪˈbjuːʃn] *n. fml* **(for)** адпла́та, ка́ра; **retribution for terrorist attacks** адпла́та за тэрарысты́чныя ата́кі

**retributive** [rɪˈtrɪbjətɪv] *adj.* які́ кара́е, ка́рны

**retrieval** [rɪˈtriːvl] *n.* **1.** *fml* атрыма́нне наза́д; вярта́нне (*сабе*); **retrieval of one's property** вярта́нне маёмасці **2.** *comput.* вы́барка (*інфармацыі*)

**retrieve** [rɪˈtriːv] *v. fml* **1. (from)** узя́ць наза́д, вярну́ць сабе́ **2.** *comput.* ве́сці по́шук; выбіра́ць; рабі́ць вы́барку **3.** выпраўля́ць (*сітуацыю*)

**retrograde**[1] [ˈretrəgreɪd] *n.* рэтрагра́д; рэакцыяне́р

**retrograde**[2] [ˈretrəgreɪd] *adj. fml* **1.** які́ ру́хаецца ў адваро́тным напра́мку **2.** рэтрагра́дны, рэакцы́йны

**retrogressive** [ˌretrəˈgresɪv] *adj. fml* рэгрэсі́ўны, адваро́тны

**retrospect** [ˈretrəspekt] *n.* по́зірк у мі́ну́лае ♦ **in retrospect** рэтраспекты́ўна

**retrospection** [ˌretrəˈspekʃn] *n. fml* рэтраспе́кцыя; ро́здум аб мі́ну́лым

**retrospective** [ˌretrəˈspektɪv] *adj.* рэтраспекты́ўны, накірава́ны ў мі́ну́лае; **a retrospective view** рэтраспекты́ўны по́гляд

**return**[1] [rɪˈtɜːn] *n.* **1. (to, from)** вярта́нне; *We are looking forward to your return from Spain.* Мы з нецярплівасцю чакаем вашага вяртання з Іспаніі. **2.** адда́ча; зваро́т; **return match** матч у адка́з **3.** *econ.* abaро́т; дахо́д; прыбы́так **4.** *comput.* **a return key** кла́віша зваро́ту ♦ **by return (of post)** зваро́тнай по́штай; **in return (for smth.)** заме́ст (чаго́-н.); узаме́н (чаго́-н.)

**return**[2] [rɪˈtɜːn] *v.* **1. (to, from)** варо́чацца, вярта́цца; зноў звярта́цца (*да чаго-н.*); *I'll return to this subject again.* Я яшчэ вярнуся да гэтага пытання. **2.** вярта́ць, аддава́ць **3.** адка́зваць; пярэ́чыць **4.** выбіра́ць (*у заканадаўчы орган*)

**5.** *econ.* прынóсіць (*даход*); **return good interest** прынóсіць дóбры дахóд
**return ticket** [rɪˌtɜːnˈtɪkɪt] *n.* зварóтны білéт
**reunion** [riːˈjuːniən] *n.* **1. (with, between)** узʼяднáнне **2.** сустрэ́ча сябрóў; **a college reunion** сустрэ́ча былы́х аднакáшнікаў; **a family reunion** збор усёй сямʼі
**reunite** [ˌriːjuːˈnaɪt] *v.* **(with)** узʼяднóўваць; узʼяднóўвацца
**reusable** [ˌriːˈjuːzəbl] *adj.* прыгóдны для шматразóвага выкарыстáння
**reuse¹** [ˌriːˈjuːz] *n.* паўтóрнае выкарыстáнне
**reuse²** [ˌriːˈjuːz] *v.* паўтóрна выкарыстóўваць
**revaluation** [ˌriːvæljuˈeɪʃn] *n.* рэвальвáцыя, перааца́нка
**revalue** [ˌriːˈvæljuː] *v.* рэвальвíраваць, перааца́ньваць
**revamp** [ˌriːˈvæmp] *v.* паднаўля́ць; перарабля́ць
**revanchism** [rɪˈvænʃɪzəm] *n.* рэваншы́зм
**reveal** [rɪˈviːl] *v.* **1. (to)** адкрывáць; выкрывáць; **reveal a secret to smb.** давéрыць камý-н. сакрэ́т; *He would not reveal his name.* Ён не хацеў назваць сваё імя. **2.** пакáзваць, адкрывáць; *He turned so that his face was revealed.* Ён павярнуўся так, што мы змаглі разгледзець яго твар.
**revel¹** [ˈrevl] *n. lit.* гуля́нка
**revel²** [ˈrevl] *v.* **1.** балявáць, гуля́ць **2. (in)** атры́млíваць асалóду, цéшыцца (*з чаго-н.*)
**revelation** [ˌrevəˈleɪʃn] *n.* выяўлéнне; выкрыццё, раскрыццё (*тайны, планаў і г.д.*) ♦ **come as/be a revelation (to smb.)** стаць адкрыццём (для кагó-н.)
**reveller** [ˈrevələ] *n.* гуля́ка
**revelry** [ˈrevlri] *n.* гуля́нка, папóйка
**revenge¹** [rɪˈvendʒ] *n.* **1.** пóмста, адплáта; **in revenge** у адплáту; **take one's revenge on smb. for smth.** адпóмсціць камý-н. за штó-н. **2.** прáга пóмсты; пóмслівасць, мсцíвасць **3.** *sport* рэвáнш; **give smb. his revenge** даць камý-н. магчы́масць адыгрáцца; **get revenge** узя́ць рэвáнш
**revenge²** [rɪˈvendʒ] *v.* пóмсціць, адпóмсціць; **revenge oneself on smb.** *lit.* адпóмсціць камý-н.; **revenge on injustice** адпóмсціць за несправядлíвасць; **be revenged** быць адпóмшчаным
**revenue** [ˈrevənjuː] *n.* дахóд; дзяржáўныя дахóды
**revere** [rɪˈvɪə] *v. fml* глыбóка паважáць; шанавáць
**reverence** [ˈrevərəns] *n.* **(for)** *fml* глыбóкая павáга, шанавáнне; пачцíвасць; **show/pay reverence** выкáзваць пашáну
**reverent** [ˈrevərənt] *adj. fml* пачцíвы, пóўны глыбóкай пашáны; *They sat in reverent silence.* Яны сядзелі ў пачцівым маўчанні.
**reverential** [ˌrevəˈrenʃl] *adj. fml* пачцíвы
**reverie** [ˈrevəri] *n. fml* мáра, мрóя; летуцéнне; *She was startled out of her reverie by the door bell.* Званок у дзверы вярнуў яе з летуцення.
**reversal** [rɪˈvɜːsl] *n.* **1. (of)** пóўнае змянéнне; параварóт; **a sudden reversal of policy** раптóўная перамéна ў палíтыцы; **a reversal of fortune(s)** змéнлівасць лёсу **2.** *law* адмéна
**reverse¹** [rɪˈvɜːs] *n.* **1. the reverse** адварóтнае, процілéглае; процілéгласць; *We are the reverse of being friends.* Мы не толькі не сябры, а наадварот. **2.** зáдні ход; **put the car in/into reverse** даць зáдні ход **3. the reverse** адварóтны бок (*тканіны, паперы і да т.п.*) **4. : the reverse of a coin** рэ́шка **5.** *fml.* паражэ́нне; правáл; няўдáча ♦ **in reverse** наадварóт
**reverse²** [rɪˈvɜːs] *adj.* адварóтны, процілéглы; **in reverse order** у адварóтным парáдку; **have the reverse effect** мець процілéглы эфéкт
**reverse³** [rɪˈvɜːs] *v.* **1.** мяня́ць (*на процілеглае*); пóўнасцю змяня́ць (*напрамак, палітыку, рашэнне*); паварóчваць назáд; *The situation was reversed.* Сітуацыя крута змянілася. **2.** давáць зáдні ход; *He reversed his car into the garage.* Ён заехаў у гараж заднім ходам. **3.** адмяня́ць, анулявáць; **reverse a sentence** адмянíць прыгавóр; *He reversed his decision.* Ён адмяніў сваё рашэнне.
**reversible** [rɪˈvɜːsəbl] *adj.* **1.** двухбакóвы (*пра адзенне, тканіну і да т.п.*); **a reversible coat** двухбакóвае палітó **2.** абарачáльны; **a reversible process** абарачáльны працэ́с; **a reversible reaction** абарачáльная рэáкцыя
**reversion** [rɪˈvɜːʃn] *n.* **(to) 1.** *fml* вяртáнне (*у папярэдні стан*) **2.** *law* перахóд маёмасных правóў назáд да першапачаткóвага ўладáльніка абó наслéдніка
**revert** [rɪˈvɜːt] *v.* **(to) 1.** вяртáцца (*у папярэдні стан*) **2.** вяртáцца (*да ранейшай тэмы*); *I'd like to revert to the first point of our discussion.* Мне хацелася б вярнуцца да першага пункта нашага абмеркавання. **3.** *law* вяртáцца (*пра маёмасць, правы*)
**review¹** [rɪˈvjuː] *n.* **1.** пераглядáд; разгля́д, агля́д; **the review of education system** перагля́д сістэ́мы адукáцыі; **a review of the year's events** агля́д падзéй гóда **2.** рэцэ́нзія, вóдзыў; *Her last novel got good reviews in the press.* Яе апошні раман атрымаў добрыя водгукі ў прэсе. **3.** перыяды́чны часóпіс, перыяды́чнае выдáнне **4.** *mil.* парáд
**review²** [rɪˈvjuː] *v.* **1.** разглядáць; пераглядáць; *He often reviews the past.* Ён часта ўспамінае мінулае. **2.** рэцэнзавáць; пісáць крыты́чны

во́дзыў; *His new film was well reviewed in the papers.* Яго новы фільм атрымаў у прэсе станоўчую ацэнку. **3.** *mil.* прыма́ць пара́д

**reviewer** [rɪˈvjuːə] *n.* рэцэнзе́нт; аглядáльнік; кры́тык

**revile** [rɪˈvaɪl] *v. fml* абража́ць, зневажа́ць; **revile smb. for smth./doing smth.** абража́ць каго́-н. за што-н.

**revise** [rɪˈvaɪz] *v.* **1.** перагляда́ць, змяня́ць (*меркаванне, погляд і да т.п.*); *I've revised my opinion.* Я перадумаў. **2.** *BrE* прагляда́ць, паўтара́ць; *She's got a lot of revising to do before the exam.* Ёй яшчэ трэба многае паўтарыць перад экзаменам. **3.** правяра́ць, выпраўля́ць; **revised edition** вы́праўленае выда́нне; *She revised her lectures for publication.* Яна выправіла свае лекцыі перад іх выданнем.

**revision** [rɪˈvɪʒn] *n.* **1.** перагля́д; праве́рка, выпраўле́нне; *His lecture needs revision.* Яго лекцыю трэба перагледзець. **2.** паўтарэ́нне, прагля́д канспе́кта пе́рад экза́менам

**revisit** [ˌriːˈvɪzɪt] *v.* зноў наве́дваць; *He revisited the town he grew up in.* Ён зноў наведаў горад, у якім вырас.

**revival** [rɪˈvaɪvl] *n.* **1.** аднаўле́нне; **an economic revival** аднаўле́нне экано́мікі **2.** адраджэ́нне; **the revival of old customs** адраджэ́нне былы́х звы́чаяў

**revive** [rɪˈvaɪv] *v.* **1.** адраджа́ць; адраджа́цца; абуджа́цца; ажыўля́ць **2.** апрыто́мнець **3.** аднаўля́ць; *The opera was recently revived.* Гэтую оперу нядаўна паставілі зноў.

**revolt¹** [rɪˈvəʊlt] *n.* паўста́нне, мяце́ж; бунт; пратэ́ст; **lead/stage a revolt** узнача́ліць/арганізава́ць паўста́нне

**revolt²** [rɪˈvəʊlt] *v.* **1. (against)** паўстава́ць; бунтава́ць **2. (against)** праці́віцца; *Public opinion will revolt against any further increase in taxes.* Грамадскасць будзе супраць далейшага павелічэння падаткаў. **3.** выклiка́ць агі́ду

**revolting** [rɪˈvəʊltɪŋ] *adj.* агі́дны; які́ выклікае агі́ду

**revolution** [ˌrevəˈluːʃn] *n.* **1.** рэвалю́цыя (*таксама перан.*) **2.** рэвалю́цыя; **a cultural/ social/ scientific revolution** культу́рная/ сацыя́льная/ навуко́вая рэвалю́цыя; *Computer technology has caused a revolution in business practices.* Камп'ютарныя тэхналогіі зрабілі рэвалюцыю ў сферы бізнесу. **3. (around/on)** абаро́т; *The earth makes one revolution around the sun each year.* Зямля робіць за год адзін абарот вакол Сонца.

**revolutionary** [ˌrevəˈluːʃənəri] *adj.* рэвалюцы́йны; **a time of rapid and revolutionary changes** час ху́ткіх і рэвалюцы́йных переме́н; *His revolutionary ideas soon were supported.* Яго рэвалюцыйныя ідэі ў хуткім часе знайшлі падтрымку.

**revolve** [rɪˈvɒlv] *v.* круці́цца, вярце́цца (*вакол сваёй восі*); *The fan revolved slowly.* Вентылятар павольна круціўся; **revolve around/round smth.** вярце́цца вако́л чаго́-н.; *The earth revolves around the sun.* Зямля верціцца вакол Сонца.

**revolver** [rɪˈvɒlvə] *n.* рэвальве́р

**revulsion** [rɪˈvʌlʃn] *n.* агі́да

**reward¹** [rɪˈwɔːd] *n.* **1. (for)** узнагаро́да, узнагаро́джанне **2.** грашо́вая ўзнагаро́да, прэ́мія; *A reward was offered for the return of the jewels.* За вяртанне каштоўнасцей абяцалі грашовую ўзнагароду.

**reward²** [rɪˈwɔːd] *v.* **(for)** узнагаро́джваць; аддава́ць нале́жнае; *How can I reward your kindness?* Як мне адплаціць за тваю дабрату?

**rewind¹** [ˌriːˈwaɪnd] *n.* перамо́тванне, перамо́тка

**rewind²** [ˌriːˈwaɪnd] *v.* **(rewound)** перамо́тваць

**rewound** [ˌriːˈwaʊnd] *past, p.p.* → **rewind²**

**rewrite¹** [ˈriːraɪt] *n.* **1.** перапрацава́ны тэкст **2.** перапрацо́ўка

**rewrite²** [ˌriːˈraɪt] *v.* **(rewrote, rewritten)** перапі́сваць; рэдагава́ць

**rewritten** [ˌriːˈrɪtn] *p.p.* → **rewrite²**

**rewrote** [ˌriːˈrəʊt] *past* → **rewrite²**

**rhapsody** [ˈræpsədi] *n.* **1.** *mus.* рапсо́дыя; **Liszt's Hungarian Rhapsodies** венге́рскія рапсо́дыі Лі́ста **2.** *fml* захапле́нне

**rheme** [riːm] *n. ling.* рэ́ма

**rheostat** [ˈrɪəstæt] *n. phys.* рэаста́т

**rhesus factor** [ˈriːzəsˌfæktə] *n. med.* рэ́зус-фа́ктар; **rhesus positive** стано́ўчы рэ́зус-фа́ктар; **rhesus negative** адмо́ўны рэ́зус-фа́ктар

**rhetoric** [ˈretərɪk] *n. fml.* **1.** рыто́рыка; прамо́ўніцкае майстэ́рства **2.** фразёрства

**rhetorical** [rɪˈtɒrɪkl] *adj.* **1.** рытары́чны; **a rhetorical question** рытары́чнае пыта́нне **2.** *fml* напы́шлівы; высакамо́ўны

**rheumatism** [ˈruːmətɪzəm] *n. med.* рэўматы́зм

**rhinoceros** [raɪˈnɒsərəs] *n.* (*pl.* **rhinoceros** *or* **rhinoceroses**) *zool.* насаро́г

**rhododendron** [ˌrəʊdəˈdendrən] *n. bot.* рададэ́ндран

**rhombi** [ˈrɒmbaɪ] *n. pl.* → **rhombus**

**rhombus** [ˈrɒmbəs] *n.* (*pl.* **rhombuses** *or* **rhombi**) ромб

**rhyme¹** [raɪm] *n.* **1.** ры́фма **2.** рыфмава́ны верш; **nursery rhymes** дзіця́чыя ве́ршы ♦ **there's no rhyme or reason** гэ́та не ма́е нія́кага сэ́нсу;

**without rhyme or reason** ≅ ні к сялу́ ні к го́раду; ні да во́ка ні да бо́ка

**rhyme**[2] [raɪm] *v.* **1. (with)** рыфмава́ць; рыфмава́цца; **rhyme words** рыфмава́ць сло́вы **2.** склада́ць рыфмава́ныя ве́ршы

**rhythm** [ˈrɪðəm] *n.* **1.** рытм; **music with fast/slow rhythm** му́зыка з ху́ткім/паво́льным ры́тмам **2.** перыяды́чнасць, цыклі́чнасць, пастая́нная змéна; **the rhythm of the seasons** змéна по́раў го́да; **biological rhythms** біялагі́чныя ры́тмы

**rhythmic(al)** [ˈrɪðmɪk(l)] *adj.* рытмі́чны

**rib** [rɪb] *n.* **1.** рабро́, рабры́на; *He broke a rib in the accident*. Ён зламаў рабро ў аварыі. **2.** во́стры край, рабро́ (*чаго-н.*)

**ribbon** [ˈrɪbən] *n.* сту́жка, касні́к; тасьма́, тасёмка; *Jane was wearing a ribbon in her hair.* У валасы Джэйн была ўплецена стужка.

**rice** [raɪs] *n.* **1.** *bot.* рыс **2.** рыс (*крупы*); **a grain of rice** зе́рне ры́су; **boiled rice** ры́савая ка́ша

**rice pudding** [ˌraɪsˈpʊdɪŋ] *n.* ры́савы пу́дынг

**rich**[1] [rɪtʃ] *n. pl.* **the rich** бага́тыя, багачы́, багацéі

**rich**[2] [rɪtʃ] *adj.* **1.** бага́ты **2.** кашто́ўны, дарагі́, раско́шны **3. (in, with)** бага́ты (*на што-н.*); *Citrus fruits are rich in vitamin C*. Цытрусавыя фрукты багатыя на вітамін С. **4.** урадлі́вы; бага́ты; **rich soil** урадлі́вая глéба **5.** здо́бны; тлу́сты (*пра ежу*); **a rich fruit cake** здо́бны фрукто́вы торт **6.** густы́, інтэнсі́ўны, я́ркі (*пра колер, гук, пах і да т.п.*)

**riches** [ˈrɪtʃɪz] *n. pl.* бага́цце; скарб; **the riches of the soil** ска́рбы нéтраў; **material riches** матэрыя́льныя кашто́ўнасці

**richly** [ˈrɪtʃli] *adv.* **1.** бага́та, раско́шна; *He lived in a richly furnished flat.* Ён жыў у багата абстаўленай кватэры. **2.** ца́лкам, по́ўнасцю; *She richly deserved the success.* Яна цалкам заслужыла гэты поспех.

**richness** [ˈrɪtʃnəs] *n.* **1.** бага́цце, даста́так **2.** тлу́стасць; урадлі́васць **3.** я́ркасць, жы́васць (*фарбаў*) **4.** прыгажо́сць, пы́шнасць

**rid** [rɪd] *v.* **(rid)** вызваля́ць, пазбаўля́ць; **rid oneself of debt** расплаці́цца з даўга́мі ♦ **get rid of smb./smth.** пазбаўля́цца ад каго́-н./чаго́-н.

**ridden** [ˈrɪdn] *p.p.* → **ride**[2]

**riddle**[1] [ˈrɪdl] *n.* **1.** зага́дка; *Solve the riddle, it is easy!* Адгадай загадку, яна лёгкая! **2.** та́йна, таямні́ца; **the riddles of the universe** та́йны сусвéту

**riddle**[2] [ˈrɪdl] *n.* рэ́шата

**riddle**[3] [ˈrɪdl] *v.* рабі́ць дзі́ркі, дзіра́віць; *The wall was riddled with bullets*. Сцяна была прадзіраўлена кулямі.

**ride**[1] [raɪd] *n.* прагу́лка вярхо́м; паéздка (*на веласіпедзе, аўтамабілі і да т.п.*); **go for a ride** вы́ехаць на прагу́лку; **give smb. a ride** падвéзці каго́-н.; **a two-hour ride** двухгадзі́нная паéздка ♦ **take smb. for a ride** *infml* ашука́ць каго́-н.

**ride**[2] [raɪd] *v.* **(rode, ridden) 1.** éхаць вярхо́м; скака́ць (*на кані*); *She learnt to ride when she was seven.* Яна навучылася ездзіць вярхом, калі ёй было 7 гадоў. **2.** éхаць, éздзіць (*на веласіпедзе, аўтобусе, у машыне і да т.п.*) **3.** ру́хацца; плы́сці; слі́згаць ♦ **be riding for a fall** дзéйнічаць неразва́жліва; **ride herd on smb./smth.** *AmE, infml* кама́ндаваць кім-н./чым-н.; распараджа́цца чым-н. паво́дле свайго́ меркава́ння

**ride down** [ˌraɪdˈdaʊn] *phr.v.* **1.** загання́ць, вымо́тваць; *He rode down the horse*. Ён загнаў каня. **2.** дагання́ць, нагання́ць

**ride off** [ˌraɪdˈɒf] *phr.v.* ад’язджа́ць

**ride out** [ˌraɪdˈaʊt] *phr.v.* **1.** рабі́ць прагу́лку (*вярхом, на веласіпедзе і г.д.*) **2.** выхо́дзіць з ця́жкага стано́вішча; *The company managed to ride out the scandal successfully*. Кампанія змагла паспяхова выйсці са скандалу.

**rider** [ˈraɪdə] *n.* **1.** ко́ннік, вéршнік; яздо́к; *He’ll make a good rider*. З яго можа атрымацца добры коннік. **2. (to)** ра́йдар; дапаўнéнне; папра́ўка да дакумéнта

**ridge** [rɪdʒ] *n.* **1.** го́рны краж; го́рны хрыбéт **2.** край (*чаго-н.*); **the ridge of a roof** ві́льчык, вільча́к; канёк

**ridicule**[1] [ˈrɪdɪkjuːl] *n.* абсмéйванне; насмéшка; **an object of ridicule** аб’éкт кпі́наў; **hold smb. up to ridicule** высмéйваць каго́-н.

**ridicule**[2] [ˈrɪdɪkjuːl] *v.* абсмéйваць, высмéйваць; падыма́ць на смех; *All my ideas were ridiculed by the team*. Каманда падняла на смех усе мае ідэі.

**ridiculous** [rɪˈdɪkjələs] *adj.* недарэ́чны; смяхо́тны, смéшны; *She looked ridiculous in that hat.* Яна выглядала недарэчна ў тым капелюшы.

**ridiculously** [rɪˈdɪkjələsli] *adv.* недарэ́чна; смéшна; *They are ridiculously alike*. Яны да смешнага падобныя.

**riding** [ˈraɪdɪŋ] *n.* верхава́я язда́

**rife** [raɪf] *adj.* **1.** распаўсю́джаны **2. (with)** по́ўны, напо́ўнены; **rife with rumours** по́ўны чу́так

**riffraff** [ˈrɪfræf] *n. derog.* падо́нкі грама́дства; зброд

**rifle**[1] [ˈraɪfl] *n.* вінто́ўка

**rifle**[2] [ˈraɪfl] *v.* **1.** нараза́ць кана́л ствала́ (*у зброі*) **2.** кра́сці

**rift** [rift] *n.* **1.** трэ́шчына, раско́ліна, шчы́ліна **2.** разры́ў (*паміж сябрамі*); трэ́шчына (*у адносінах*); раско́л (*у партыі*); канфлі́кт (*паміж краінамі*)

**rig**[1] [rɪg] *n.* **1.** бурава́я вы́шка **2.** *naut.* асна́стка

**rig**[2] [rɪg] *v.* **1.** маніпулі́раваць, дамага́цца чаго́-н. ашука́нствам, падма́нам; дзе́йнічаць несумле́нна або́ спадцішка́; *They rigged the elections.* Яны сфальсіфікавалі вынікі выбараў. **2.** аснашча́ць

**right**[1] [raɪt] *n.* **1.** пра́ва; прывіле́я; *We have a constitutional right to defend ourselves.* Мы маем канстытуцыйнае права абараняць сябе. **2.** пра́вільнасць, правата́; справядлі́васць **3.** *pl.* **rights** а́ўтарскае пра́ва **4. the right, the Right** пра́выя **5.** пра́вы бок; **to the right** напра́ва; **on the right** спра́ва ♦ **bang to rights** *BrE/* **dead to rights** *AmE, infml* вы́крыты, вы́яўлены (*у здзяйсненні злачынства*); **put/set smth. to rights** прыво́дзіць што-н. у нале́жны стан

**right**[2] [raɪt] *adj.* **1.** пра́вільны, справядлі́вы **2.** нале́жны; пра́вільны; зру́чны; дакла́дны; **the right size** патрэ́бны паме́р; *The diagram is not right*. Дыяграма няправільная; *Is that the right time?* Гэта дакладны час? **3.** здаро́вы; у до́брым ста́не **4.** пра́вы; **a right hand** пра́вая рука́; **make a right turn** зрабі́ць паваро́т напра́ва; **on my right hand** спра́ва ад мяне́ ♦ **in one's right mind** пры сваі́м ро́зуме і цвёрдай па́мяці; **(as) right as rain** *infml* ≅ зусім здаро́вы

**right**[3] [raɪt] *v.* **1.** выпраўля́ць; аднаўля́ць справядлі́васць; **right the oppressed** абараня́ць правы́ прыгне́чаных; *That is a fault that will right itself*. Гэта выправіцца само сабой. **2.** выпро́стваць; выраўно́ўваць

**right**[4] [raɪt] *adv.* **1.** дакла́дна, якра́з; *She was standing right in the middle of the crowd.* Яна стаяла ў самай сярэдзіне натоўпу. **2.** пра́вільна; **guess right** здагада́цца **3.** справядлі́ва; **it serves you right** так табе́ і трэ́ба **4.** напра́ва; **turn right** павярну́ць напра́ва ♦ **right and left** усю́ды, скрозь; ва ўсе бакі́; з усі́х бако́ў; **right away/off** адра́зу; неадкла́дна; *I'll find the address for you right away*. Я неадкладна знайду вам адрас; **right now** цяпе́р; адра́зу, за́раз жа; **right off the bat** *infml* з ме́сца ў кар'е́р, адра́зу

**right angle** [ˈraɪt ˌæŋgl] *n. math.* прамы́ ву́гал

**right-angled** [ˈraɪtˌæŋgld] *adj.* прамавугo̍льны

**righteous** [ˈraɪtʃəs] *adj. fml* **1.** пра́ведны **2.** справядлі́вы, апра́ўданы; **righteous anger** пра́ведны гнеў

**righteousness** [ˈraɪtʃəsnəs] *n. fml* пра́веднасць; справядлі́васць

**rightful** [ˈraɪtfəl] *adj. fml*. зако́нны, праваме́рны; **rightful authority** зако́нная ўла́да

**right-hand** [ˈraɪthænd] *adj.* **1.** пра́вы, які́ знахо́дзіцца з пра́вага бо́ку; **right-hand turn** пра́вы паваро́т; *It's on the right-hand side.* Гэта з правага боку. **2.** пра́вы, прыстасава́ны для пра́вай рукі́; **a right-hand glove** пальча́тка на пра́вую руку́

**right-handed** [ˌraɪtˈhændɪd] *adj.* **1.** які́ ро́біць усё пра́вай руко́й **2.** прыстасава́ны для пра́вай рукі́

**right-hand man** [ˌraɪthændˈmæn] *n.* незаме́нны памо́чнік; *He's my right-hand man.* Ён мая правая рука.

**rightist** [ˈraɪtɪst] *n., adj.* пра́вы, палі́тык пра́вых по́глядаў

**rightly** [ˈraɪtli] *adv.* **1.** пра́вільна; *We were rightly informed.* Мы атрымалі правільную інфармацыю. **2.** справядлі́ва

**right-wing** [ˌraɪtˈwɪŋ] *adj.* прынале́жны да пра́вага крыла́

**right-winger** [ˌraɪtˈwɪŋə] *n.* пра́вы; член пра́вага крыла́ (*партыі*)

**rigid** [ˈrɪdʒɪd] *adj.* **1.** суро́вы, стро́гі, няўхі́льны **2.** нягну́ткі; непада́тлівы

**rigidity** [rɪˈdʒɪdəti] *n.* **1.** сто́йкасць, трыва́ласць **2.** стро́гасць, суро́васць, непахі́снасць; *We were surprised at the rigidity of their beliefs*. Мы былі здзіўлены непахіснасцю іх перакананняў.

**rigidly** [ˈrɪdʒɪdli] *adv.* жо́рстка, цвёрда, стро́га; нерухо́ма

**rigor** [ˈrɪgə] *AmE* = **rigour**

**rigorous** [ˈrɪgərəs] *adj.* **1.** стро́гі; суро́вы; **rigorous measures** стро́гія ме́ры **2.** дакла́дны; **a rigorous scientific method** дакла́дны навуко́вы ме́тад

**rigour** [ˈrɪgə] *n. BrE* **1.** *fml* стро́гасць; няўмо́льнасць; бязлі́таснасць; няўхі́льнасць; **with the full rigour of the law** па ўсёй стро́гасці зако́ну **2.** суро́васць (*клімату*); **the rigour of winter** суро́васць зімы́ **3.** дакла́днасць; стара́ннасць

**rile** [raɪl] *v.* злава́ць, раздражня́ць; *Nothing ever seemed to rile him.* Здавалася, нічога яго не раздражняе.

**rim** [rɪm] *n.* абадо́к, край

**rind** [raɪnd] *n.* **1.** кара́ (*дрэва*) **2.** ску́рка (*плода*)

**ring**[1] [rɪŋ] *n.* **1.** пярсцёнак; **a gold ring** залаты́ пярсцёнак; **a wedding ring** заруча́льны пярсцёнак **2.** ко́льца; ко́ла, круг; **a key ring** ко́льца ад ключа́; **rings of smoke** ко́льцы ды́му **3.** цыркава́я арэ́на; рынг **4.** канфо́рка

**ring²** [rɪŋ] *n.* **1.** гук; звон **2.** звано́к; **give smb. a ring** *BrE, infml* патэлефанава́ць каму́-н.; *There was a ring at the door*. У дзверы пазванілі. ♦ **run rings around/round smb**. *infml* намно́га апярэ́дзіць/абагна́ць каго́-н.

**ring³** [rɪŋ] *v.* **(rang, rung) 1.** звані́ць (*пра тэлефон*); *The telephone hasn't stopped ringing all day.* Тэлефон званіў увесь дзень. **2.** (*таксама* **ring up**) тэлефанава́ць; *I'll ring up the manager tomorrow*. Я пазваню дырэктару заўтра. **3.** гуча́ць; звіне́ць ♦ **ring a bell** *infml* нага́дваць (*аб чым-н.*); *This surname rings a bell*. Гэтае прозвішча здаецца мне знаёмым; **ring in one's ears/head** звіне́ць у вуша́х/галаве́; **ring hollow/false** гуча́ць няшчы́ра/фальшы́ва; **ring true** гуча́ць праўдзі́ва

**ring back** [ˌrɪŋˈbæk] *phr.v. BrE* пераразвані́ць (*каму-н.*)

**ring off** [ˌrɪŋˈɒf] *phr.v. BrE* дава́ць адбо́й, ве́шаць тру́бку; *He rang off without giving his name*. Ён павесіў трубку, не назваўшы сваё імя.

**ring out** [ˌrɪŋˈaʊt] *phr.v.* гуча́ць; чу́цца; *The sound of a shot rang out*. Прагучаў стрэл.

**ring finger** [ˈrɪŋˌfɪŋgə] *n.* безымя́нны па́лец

**ringing¹** [ˈrɪŋɪŋ] *n.* звон, перазво́н

**ringing²** [ˈrɪŋɪŋ] *adj*. зво́нкі, гу́чны

**ringleader** [ˈrɪŋliːdə] *n. derog.* верхаво́д; завада́тар; *Police arrested the ringleaders but let the others go free.* Паліцыя арыштавала завадатараў, а астатніх адпусціла.

**ring road** [ˈrɪŋˌrəʊd] *n. BrE* кальцава́я даро́га

**ringside** [ˈrɪŋsaɪd] *n.* пе́ршыя рады́ вако́л ры́нга або́ арэ́ны

**rink** [rɪŋk] *n.* като́к

**rinse¹** [rɪns] *n.* **1.** паласка́нне; **give a rinse** выпало́скваць; прапало́скваць **2.** сро́дак для падфарбо́ўвання валасо́ў

**rinse²** [rɪns] *v.* паласка́ць; *I'll rinse my hands first*. Я спачатку спаласну рукі; **rinse smth. out** выпало́скваць, прапало́скваць што-н.; *Rinse the cup out!* Спаласні кубак!

**riot¹** [ˈraɪət] *n.* **1.** мяце́ж, бунт; *The army put down the riot.* Войска падавіла мяцеж. **2.** беспара́дкі, парушэ́нне грама́дскага пара́дку **3.** *fml* пы́шнасць, бага́цце, бу́йства; *The garden is a riot of colour in June*. У чэрвені ў садзе пануе пышнасць фарбаў. ♦ **run riot** буя́ніць; разбушава́цца (*пра людзей*); бу́йна расці́, буя́ць (*пра расліны*)

**riot²** [ˈraɪət] *v*. паруша́ць грама́дскі пара́дак, буя́ніць

**riotous** [ˈraɪətəs] *adj. fml* **1.** мяце́жны **2.** бу́рны; шумлі́вы, шу́мны; бязла́дны

**rip¹** [rɪp] *n.* разры́ў, прарэ́х, прарэ́ха; *There was a rip in the tire caused by a sharp stone*. Востры камень прадзіравіў шыну.

**rip²** [rɪp] *v.* **1.** (і)рва́ць; (і)рва́цца; *I've ripped my skirt on a nail*. Я парвала сваю спадніцу аб цвік. **2.** зрыва́ць ♦ **let rip (at smb.)** *infml* крыча́ць (*на каго-н.*), ла́яць (*каго-н.*)

**rip off** [ˌrɪpˈɒf] *phr.v. infml* **: rip smb. off** вымага́ць гро́шы, шантажы́раваць; **rip smth. off** кра́сці, займа́цца плагія́там

**rip up** [ˌrɪpˈʌp] *phr.v.* (і)рва́ць на шматкі́/кава́лкі; *Kate ripped his photo into tiny bits*. Кэт парвала яго фотакартку на дробныя кавалачкі.

**ripe** [raɪp] *adj.* **1.** спе́лы, вы́спелы; *The apples aren't ripe yet*. Яблыкі яшчэ не выспелі. **2.** вы́трыманы; **ripe cheese** вы́трыманы сыр; **ripe wine** вы́трыманае віно́ **3.** гато́вы, наспе́лы ♦ **live to a ripe old age** дажы́ць да глыбо́кай ста́расці

**ripen** [ˈraɪpən] *v.* спець, паспява́ць; *The tomatoes quickly ripened in the hot weather*. Памідоры хутка спелі ў гарачае надвор'е.

**ripeness** [ˈraɪpnəs] *n.* спе́ласць

**riposte** [rɪˈpɒst] *n. fml* **1.** дасці́пны адка́з **2.** уда́р у адка́з (*у фехтаванні*)

**ripple¹** [ˈrɪpl] *n.* **1.** рабізна́ (*на вадзе*); зыб **2.** хва́лістасць; хвалепадо́бнасць **3. : a ripple of laughter** серабры́сты смех; **a ripple of talk** го́ман

**ripple²** [ˈrɪpl] *v.* **1.** пакрыва́цца рабізно́й **2.** струме́ніцца

**rip-roaring** [ˈrɪpˌrɔːrɪŋ] *adj. infml* бу́рны, шу́мны, шумлі́вы

**rise¹** [raɪz] *n.* **1. (in)** павелічэ́нне, павышэ́нне; *There has been a rise in the number of the unemployed lately.* Апошнім часам колькасць беспрацоўных павялічылася. **2.** *BrE* прыба́ўка (*да заробку*) **3.** невялі́кае ўзвы́шша, узго́рак **4.** пад'ём (*у розных знач.*) **5.** усхо́д, узыхо́д (*сонца, месяца*) **6.** узнікне́нне, пача́так, пахо́джанне ♦ **get a rise out of smb.** раздражні́ць каго́-н.; вы́весці каго́-н. з сябе́

**rise²** [raɪz] *v.* **(rose, risen) 1.** расці́, павыша́цца, павялі́чвацца; падыма́цца; *The wind is rising.* Вецер узнімаецца; *The prices are rising.* Цэны растуць. **2.** падыма́цца, узніма́цца; *Smoke was rising from the chimney.* З коміна падымаўся дым. **3.** *fml* устава́ць на но́гі; *He rose to his feet.* Ён устаў на ногі. **4.** усхо́дзіць, узыхо́дзіць (*пра сонца, месяц, зоркі*); *The sun rose.* Сонца ўзышло. **5. (from)** уваскраса́ць, ажыўля́ць; адраджа́цца; *This city rose from the ruins*. Горад падняўся з руін; *On the third day Jesus rose from the dead.* На трэці дзень Ісус

уваскрос з мёртвых; *Christ is risen!* Хрыстос уваскрос! **6.** *fml* паўставáць; *The peasants rose in revolt.* Сяляне паўсталі.

**rise above** [ˌraɪzəˈbʌv] *phr.v.* узвышáцца (*над чым-н.*); быць вышэ́й; **rise above prejudices** быць вышэ́й забабóнаў, прымхаў

**rise to** [ˌraɪzˈtə] *phr.v.* быць у стáне спрáвіцца (*з чым-н.*); **rise to the challenge** прыня́ць вы́клік

**risen** [ˈrɪzn] *p.p.* → **rise²**

**risible** [ˈrɪzəbl] *adj. fml* сме́шны, смяхóтны; *It was a risible suggestion*. Гэта была смешная прапанова.

**rising** [ˈraɪzɪŋ] *n.* **1.** паўстáнне, бунт **2.** пад'ём **3.** усхóд, узыхóд; **the rising of the sun** узыхóд сóнца

**risk¹** [rɪsk] *n.* **1.** ры́зыка; *Let's try, it's not much of a risk.* Паспрабуй, рызыка невялікая. **2.** небяспéка, пагрóза; **a risk to national security** пагрóза нацыянáльнай бяспéцы **3.** аб'éкт ры́зыкі (*пра чалавека або бізнес*); **a poor risk** ненадзéйны кліéнт; **a good risk** кліéнт, на якóга мóжна разлі́чваць ♦ **at risk (from/of smth.)** пад пагрóзай (чагó-н.); **at one's (own) risk** на свой страх і ры́зыку; **take a risk/take risks** рызыкавáць

**risk²** [rɪsk] *v.* **1.** рызыкавáць; *When people start smoking, they are risking their health.* Калі людзі пачынаюць курыць, яны рызыкуюць сваім здароўем. **2.** адвáжвацца, асмéльвацца; *I can't risk a failure*. Я не магу пайсці на яўны правал.

**risky** [ˈrɪski] *adj.* рызыкóўны, небяспéчны; **a risky business** рызыкóўны бі́знес

**rissole** [ˈrɪsəʊl] *n. BrE* сéчаная катлéта; фрыкадэ́лька

**rite** [raɪt] *n.* абрáд, рытуáл; **funeral rites** пахавáльныя абрáды

**ritual¹** [ˈrɪtʃuəl] *n.* **1.** рытуáл **2.** звы́чай; цырымóнія, асаблі́ва традыцы́йная

**ritual²** [ˈrɪtʃuəl] *adj.* абрáдавы, рытуáльны

**ritualistic** [ˌrɪtʃuəˈlɪstɪk] *adj.* рытуалісты́чны; звя́заны з абрáднасцю

**ritzy** [ˈrɪtsi] *adj. infml* шыкóўны, раскóшны; багáты; *They had lunch in a ritzy restaurant.* Яны паабедалі ў шыкоўным рэстаране.

**rival¹** [ˈraɪvl] *n.* сапéрнік; сапéрніца; канкурэ́нт; канкурэ́нтка; **business rivals** канкурэ́нты ў бізнесе; **without a rival** які́ не мáе сапéрнікаў

**rival²** [ˈraɪvl] *adj.* сапéрніцкі, канкурэ́нтны

**rival³** [ˈraɪvl] *v.* сапéрнічаць, канкуры́раваць

**rivalry** [ˈraɪvlri] *n.* саперні́цтва, канкурэ́нцыя

**riven** [ˈrɪvn] *adj. fml* **(by/with)** раскóлаты, расшчэ́плены; рассéчаны

**river** [ˈrɪvə] *n.* **1.** ракá; **the River Thames** ракá Тэ́мза; **up/down river** увéрх/уні́з па рацэ́ **2. (of)** патóк; **a river of lava** патóк лáвы

**riverbank** [ˈrɪvəˌbæŋk] *n.* бéраг ракі́; **on the riverbank** на бéразе ракі́

**river bed** [ˈrɪvəbed] *n.* рэ́чышча ракі́

**riverside** [ˈrɪvəsaɪd] *n.* прыбярэ́жная паласá, узбярэ́жжа

**rivulet** [ˈrɪvjələt] *n. fml.* рачýлка; ручáй; *Rivulets of sweat ran down his face*. Пот ручайкамі сцякаў па яго твары.

**road** [rəʊd] *n.* **1.** дарóга, гасці́нец; **a major/minor road** галóўная/другарáдная дарóга; **a country/mountain road** прасёлачная/гóрная дарóга; **along the road** уздóўж дарóгі; **up/down the road** увéрх/уні́з па дарóзе; *Your road lies straight before you.* Вам ісці прама. **2.** шлях (*да чаго-н.*), спóсаб (*дасягнення чаго-н.*); **be on the road to smth.** быць на шляхý да чагó-н. ♦ **any road** ва ўся́кім рáзе, прынáмсі; **one for the road** *infml* развітáльная чáрка

**roadblock** [ˈrəʊdblɒk] *n.* загарóда на дарóзе

**roadhouse** [ˈrəʊdhaʊs] *n.* прыдарóжны рэстарáн або́ бар

**road map** [ˈrəʊdmæp] *n.* дарóжная кáрта

**road show** [ˈrəʊdʃəʊ] *n.* рáдыё- або́ тэлерэпартáж з мéсца падзéй

**roadside** [ˈrəʊdsaɪd] *n.* абóчына дарóгі; **roadside inn** прыдарóжная гасці́ніца

**road sign** [ˈrəʊdsaɪn] *n.* дарóжны знак

**roadway** [ˈrəʊdweɪ] *n.* дарóга, праéзная дарóга

**roadworks** [ˈrəʊdwɜːks] *n.* дарóжныя рабóты

**roadworthy** [ˈrəʊdwɜːði] *adj.* прыгóдны, прыдáтны да язды́ па дарóгах або́ да эксплуатáцыі (*пра аўтамабіль*)

**roam** [rəʊm] *v.* **1.** падарóжнічаць, вандравáць; блукáць; **roam the countryside** вандравáць па сéльскай мясцóвасці; **roam the streets** блукáць па вýліцах **2. (over)** блукáць (*перан.*); *His eyes roamed over the room*. Яго погляд блукаў па пакоі.

**roaming** [ˈrəʊmɪŋ] *n.* рóўмінг

**roar¹** [rɔː] *n.* **1.** роў; грýкат; гул, шум; **the roar of the wind** роў вéтру **2.** роў; рóгат; крык, ля́мант; **roars of laughter** вы́бухі смéху

**roar²** [rɔː] *v.* **1.** раўці́; ры́каць; *We heard a lion roar*. Мы чулі, як рыкаў леў. **2.** гусці́, гудзéць; грукатáць, шумéць; *A truck roared past.* Міма прагрукатаў грузавік. **3.** крычáць, лямантавáць; **roar with pain** зараўці́ ад бóлю; **roar with laughter** рагатáць

**roaring** [ˈrɔːrɪŋ] *adj.* шýмны, бýрны; гýчны, мóцны; **a roaring fire** агóнь, які́ бушýе; **roaring applause** бýрныя апладысмéнты ♦ **do a roar-**

**ing trade (in smth.)** *infml* вéсці бóйкі гáндаль (чым-н.); **a roaring success** ашаламля́льны пóспех

**roast¹** [rəʊst] *n.* смажанíна, смáжаны кавáлак мя́са

**roast²** [rəʊst] *adj.* смáжаны

**roast³** [rəʊst] *v.* **1.** смáжыць, пячы́, запякáць **2.** сушы́ць (*на агні*); падсмáжваць; **roast coffee beans** падсмáжыць зярня́ты кáвы **3.** *infml* жóрстка крытыкавáць; *Her first play got roasted by the critics.* Яе першую п'есу моцна раскрытыкавалі.

**roast beef** [ˈrəʊstbiːf] *n.* рóстбіф

**roasting** [ˈrəʊstiŋ] *n.* жóрсткая кры́тыка, заўвáга ♦ **give smb. a roasting** крытыкавáць кагó-н.; **get a roasting** падвяргáцца кры́тыцы

**rob** [rɒb] *v.* грáбіць, рабавáць, крáсці; **rob smb. of smth.** адабрáць сíлай штo-н. у кагó-н. ♦ **rob Peter to pay Paul** ашчаслíвіць аднагó за кошт íншага

**robber** [ˈrɒbə] *n.* грабéжнік, рабаўнíк, злóдзей, разбóйнік; *He was known as a bank robber.* Яго ведалі як грабежніка банкаў.

**robbery** [ˈrɒbəri] *n.* грабéж, разбóй, аграблéнне; **an armed robbery** узбрóены разбóй

**robe¹** [rəʊb] *n.* **1.** мáнтыя; шырóкае адзéнне; **judge's robes** судзéйская мáнтыя **2.** халáт

**robe²** [rəʊb] *v. fml* адзявáць; адзявáцца; апранáць; апранáцца; **robed in black** апранýты ў чóрнае

**robin** [ˈrɒbɪn] *n. zool.* малíнаўка

**robot** [ˈrəʊbɒt] *n.* рóбат

**robust** [rəʊˈbʌst] *adj.* здарóвы; дýжы; мóцны; **robust roots** мóцныя каранí; *He was a robust 65-year-old man.* Ён быў дужы 65-гадовы мужчына.

**robustness** [rəˈbʌstnəs] *n.* здарóўе; сíла; моц

**rock¹** [rɒk] *n.* **1.** *AmE* кáмень **2.** гóрная парóда **3.** скалá, уцёс ♦ **on the rocks** ≅ на мéлі; **between a rock and a hard place** ≅ між двух агнёў; памíж лíха і гóра; у бязвы́хадным станóвішчы

**rock²** [rɒk] *n. mus.* рок (*музычны кірунак*); **a rock band** рок-гурт; **a rock star** рóк-зóрка

**rock³** [rɒk] *v.* **1.** калыхáць; калыхáцца; люля́ць, закалы́хваць; *The boat rocked in the waves.* Лодка гайдалася на хвалях. **2.** трэ́сці; трэ́сціся; хвалявáць; урáжваць; *The explosion made the whole house rock.* Ад выбуху затрosся ўвесь дом; *The news rocked the city.* Навіна шакіравала горад. ♦ **rock the boat** *infml* унóсіць разлáд; перашкаджáць злáджанай рабóце

**rock and roll** [ˌrɒkənˈrəʊl] *n. mus.* (*таксама* **rock'n'roll**) рок-н-рóл; *Elvis was the king of rock'n'roll.* Элвіс быў каралём рок-н-рола.

**rock bottom** [ˌrɒkˈbɒtəm] *n. infml* нíжняя мяжá; **the rock bottom of despair** мяжá адчáю

**rock candy** [ˌrɒkˈkændi] *n. AmE* ледзянéц

**rock climbing** [ˈrɒkˌklaɪmɪŋ] *n.* альпінíзм

**rock crystal** [ˈrɒkkrɪsl] *n.* гóрны хрустáль

**rocker** [ˈrɒkə] *n.* **1.** крэ́сла-качáлка **2.** рóкер (*у розных знач.*) ♦ **be off your rocker** *infml* ≅ у ягó клёпкі нестаé; у ягó не ўсе дóма

**rockery** [ˈrɒkəri] = **rock garden**

**rocket¹** [ˈrɒkɪt] *n. bot.* начная́ фія́лка, вячóрніца

**rocket²** [ˈrɒkɪt] *n.* **1.** ракéта; **a space rocket** касмíчная ракéта; **a rocket site** стáртавая пляцóўка, палігóн **2.** рэактыў́ны снарáд ♦ **give smb. a rocket** *BrE, infml* даць камý-н. наганя́й; **get a rocket** *BrE, infml* атрымáць наганя́й

**rocket³** [ˈrɒkɪt] *v.* **1.** рэ́зка павялíчвацца (*пра цэны, праблемы і да т.п.*) **2.** рýхацца вéльмі хýтка; *The train rocketed through the tunnel.* Цягнік пранёсся праз тунэль.

**rockfall** [ˈrɒkfɔːl] *n.* каменяпáд, абвáл

**rock garden** [ˈrɒkɡɑːdn] *n.* альпінáрый, сад з дэкараты́ўнымі гóркамі

**rock-hard** [ˌrɒkˈhɑːd] *adj.* цвёрды як кáмень; *The bread was stale and rock-hard.* Хлеб быў чэрствы і цвёрды як камень.

**rocking chair** [ˈrɒkɪŋtʃeə] *n.* (*таксама* **rocker**) крэ́сла-качáлка

**rocking horse** [ˈrɒkɪŋhɔːs] *n.* конь-качáлка

**rock music** [ˈrɒkmjuːzɪk] *n.* (*таксама* **rock**) рок-мýзыка

**rock'n'roll** [ˌrɒkənˈrəʊl] *n.* = **rock and roll**

**rocky** [ˈrɒki] *adj.* **1.** скалíсты, камянíсты **2.** няўстóйлівы, хíсткі; са шматлíкімі перашкóдамі; **a rocky marriage** нетрывáлы шлюб; **a financially rocky year** ця́жкі ў фінáнсавых адносінах год

**rococo¹** [rəˈkəʊkəʊ] *n.* (*таксама* **Rococo**) стыль ракакó

**rococo²** [rəˈkəʊkəʊ] *adj.* у сты́лі ракакó

**rod** [rɒd] *n.* **1.** прут, прутóк, лазíна; **a fishing rod** вýдачка **2.** *fml* рóзга, хлыст **3.** стры́жань (*металічны*) ♦ **make a rod for one's own back** ≅ капáць я́му самóму сабé

**rode** [ˈrəʊd] *past* → **ride²**

**rodent** [ˈrəʊdnt] *n. zool.* грызýн

**rodeo** [ˈrəʊdiəʊ] *n.* радэ́а

**roentgen** [ˈrɜːntjən,ˈrɒntjən] *n.* рэнтгéн

**rogue** [rəʊɡ] *n.* **1.** *dated* жýлік, махля́р; **a rogues' gallery** паліцэ́йскі архíў фотазды́мкаў злачы́нцаў **2.** *hum.* ашукáнец; свавóльнік

**roguish** [ˈrəʊɡɪʃ] *adj.* жулікавáты, хітравáты; **a roguish smile** хíтрая ўсмéшка

**role** [rəʊl] *n.* **1.** рóля; **the role of leader** рóля лíдара; **a major/key/vital role** галóўная/ключавáя/

жыццёвая ро́ля; *The media play a major role in influencing people's opinion.* Сродкі масавай інфармацыі аказваюць моцнае ўздзеянне на думкі людзей. **2.** ро́ля акцёра (*у спектаклі, фільме і да т.п.*)

**role-play**[1] [ˈrəʊlpleɪ] *n.* ро́левая ігра́ (*у працэсе навучання*); *They are going to discuss the use of role-play in teaching foreign languages.* Яны збіраюцца абмеркаваць выкарыстанне ролевай ігры ў выкладанні замежных моў.

**role-play**[2] [ˈrəʊlpleɪ] *v.* разы́грываць ро́лю

**role-playing game** [ˈrəʊlpleɪɪŋˌɡeɪm] *n.* ро́левая ігра

**roll**[1] [rəʊl] *n.* **1.** рулóн (*паперы, тканіны і да т.п.*); сувóй **2.** спіс; рэéстр; вéдамасць **3.** бу́лачка **4.** кручэ́нне, варóчанне; пагóйдванне **5.** гру́кат; **a roll of thunder** гру́кат грóму; **a drum roll** барабáнны дрóбат ♦ *infml* **a roll in the hay** ноч кахáння

**roll**[2] [rəʊl] *v.* **1.** каці́ць; каці́цца; ру́хацца; **roll a trolley** каці́ць каля́ску **2.** скру́чваць; *The hedgehog rolled itself into a ball*. Вожык скруці́ўся ў клубок. **3.** гайдáць; гайдáцца **4.** грымéць, грукатáць; *Thunder rolled.* Прагрымеў гром. **5.** раскáтваць (*цеста*) ♦ **be rolling in money** *infml* купáцца ў грашáх; **roll up one's sleeves** узя́цца за рабóту, закасáўшы рукавы́

**roll about** [ˌrəʊləˈbaʊt] *phr.v. BrE* = **roll around**

**roll around** [ˌrəʊləˈraʊnd] *phr.v.* захóдзіцца ад смéху, пакáтвацца ад смéху

**roll away** [ˌrəʊləˈweɪ] *phr.v.* **:** *The mist rolled away.* Туман рассеяўся.

**roll back** [ˌrəʊlˈbæk] *phr.v.* **1.** зніжáць, паніжáць (*інфляцыю, цэны*) **2.** адкóчваць назáд

**roll by** [ˌrəʊlˈbaɪ] *phr.v.* прахóдзіць (*пра час*)

**roll in** [ˌrəʊlˈɪn] *phr.v. infml* прыхóдзіць, прыбывáць у вялі́кай кóлькасці; *Offers to help were rolling in*. Дапамогу прапаноўвалі з усіх бакоў.

**roll over** [ˌrəʊlˈəʊvə] *phr.v.* **1.** пераварóчваць, перакýльваць (*каго-н.*) **2.** варóчацца; паварóчвацца; *The child was rolling over in bed.* Дзіця варочалася ў ложку.

**roll round** [ˌrəʊlˈraʊnd] *phr.v.* зноў вяртáцца; *Winter rolled round again*. Зноў прыйшла зіма.

**roll up** [ˌrəʊlˈʌp] *phr.v.* **1.** *infml* з'яві́цца, паяві́цца; заяві́цца; *Tom finally rolled up.* Том нарэшце з'явіўся. **2.** павялі́чвацца; *His debts were rolling up.* Яго даўгі раслі. **3.** зачыня́ць (*акно ў аўтамабілі*)

**roll call** [ˈrəʊlkɔːl] *n.* пераклі́чка

**rolled oats** [ˌrəʊldˈəʊts] *n.* плю́шчаная аўся́нка, геркулéс

**roller** [ˈrəʊlə] *n.* **1.** *tech.* цылі́ндр; катóк; вáлік **2.** хвáля, вал

**roller coaster** [ˈrəʊləkəʊstə] *n.* амерыкáнскія гóркі (*атракцыён*)

**roller skate**[1] [ˈrəʊləˌskeɪt] *n.* рóлік, рóлікавы канёк; **a pair of roller skates** рóлікі

**roller skate**[2] [ˈrəʊləˌskeɪt] *v.* катáцца на рóліках

**roller skating** [ˈrəʊləˌskeɪtɪŋ] *n.* катáнне на рóліках

**rollicking** [ˈrɒlɪkɪŋ] *adj.* **1.** бесклапóтны, бестурбóтны **2.** шу́мны

**rolling mill** [ˈrəʊlɪŋˌmɪl] *n.* пракáтны стан

**rolling pin** [ˈrəʊlɪŋˌpɪn] *n.* качáлка (*для раскатвання цеста*)

**roly-poly**[1] [ˌrəʊliˈpəʊli] *n.* рулéт з варэ́ннем

**roly-poly**[2] [ˌrəʊliˈpəʊli] *adj. infml* пу́хлы; пóўны (*пра чалавека*)

**Roman**[1] [ˈrəʊmən] *n.* ры́млянін; **ancient Romans** старажы́тныя ры́мляне

**Roman**[2] [ˈrəʊmən] *adj.* **1.** ры́мскі; **the Roman alphabet** лаці́нскі алфаві́т; **the Roman Empire** Ры́мская імпéрыя; **Roman numerals** ры́мскія лі́чбы **2.** ры́мска-каталі́цкі

**Roman Catholic** [ˌrəʊmənˈkæθlɪk] *n. relig.* (*таксама* **Catholic**) каталі́к (катóлік); каталі́чка; **(Roman Catholic) Church** касцёл

**Roman Catholic Church** [ˌrəʊmənˈkæθlɪkˈtʃɜːtʃ] *n.* **the Roman Catholic Church** ры́мска-каталі́цкая царквá

**Roman Catholicism** [ˌrəʊmənkəˈθɒləsɪzəm] *n.* ры́мска-каталі́цкае веравызнáнне; каталі́цтва

**Romance** [rəʊˈmæns] *adj.* рамáнскі; **Romance languages** рамáнскія мóвы; **Romance culture** рамáнская культу́ра; *Spanish is a Romance language*. Іспанская мова належыць да групы раманскіх моў.

**romance**[1] [rəʊˈmæns] *n.* **1.** рамáн; любóўная су́вязь **2.** рамáнтыка **3.** рамáн **4.** ры́царскі рамáн (*звыч. у вершах*) **5.** *mus.* рамáнс

**romance**[2] [rəʊˈmæns] *v.* **1.** перабóльшваць **2.** аддавáцца мáрам, фантазі́раваць **3.** заляцáцца (*да каго-н.*)

**Romanesque**[1] [ˌrəʊməˈnesk] *n. archit.* рамáнскі стыль

**Romanesque**[2] [ˌrəʊməˈnesk] *adj.* рамáнскі

**Romanian**[1] [rʊˈmeɪniən] *n.* **1.** румы́н; румы́нка; **the Romanians** румы́ны **2.** румы́нская мóва

**Romanian**[2] [rʊˈmeɪniən] *adj.* румы́нскі

**Roman law** [ˌrəʊmənˈlɔː] *n.* ры́мскае прáва

**Roman nose** [ˌrəʊmənˈnəʊs] *n.* ры́мскі нос

**romantic**[1] [rəʊˈmæntɪk] *n.* **1**. рамáнтык **2. Romantic** пісьмéннік, мастáк, музыкáнт, чыé прáцы грунту́юцца на рамантызме

**romantic**[2] [rəʊˈmæntɪk] *adj.* **1.** рамантычны **2. Romantic** рамантычны, які́ аднóсіцца да

раманты́зму; **Romantic poets** паэ́ты эпо́хі раманты́зму

**romanticism** [rəʊˈmæntɪsɪzəm] *n.* **1.** (*таксама* **Romanticism**) раманты́зм (*напрамак у літаратуры і мастацтве*) **2.** раманты́зм

**romanticize,** *BrE* **-ise** [rəʊˈmæntɪsaɪz] *v.* рамантызава́ць; пака́зваць у ідэалізава́ным вы́глядзе

**Romany[1]** [ˈrɒməni,ˈrəʊməni] *n.* **1.** цыга́н; цыга́нка; **the Romany** цыга́не **2.** цыга́нская мо́ва

**Romany[2]** [ˈrɒməni,ˈrəʊməni] *adj.* цыга́нскі

**Rome** [rəʊm] *n.* **1.** Рым (*горад*) **2.** Ры́мская імпе́рыя **3.** ры́мска-каталі́цкая царква́; каталіцы́зм ♦ **Rome wasn't built in a day** Рым не адра́зу будава́ўся; **when in Rome do as the Romans do** ≅ у чужы́ манасты́р са сваі́м стату́там не хо́дзяць

**romeo** [ˈrəʊmiəʊ] *n.* **1.** (*таксама* **Romeo**) Рамэ́а **2.** закаха́ны юна́к; малады́ палюбо́ўнік

**rondo** [ˈrɒndəʊ] *n. mus.* ро́нда

**roof[1]** [ru:f] *n.* **1.** дах, страха́; **a flat roof** пака́ты дах; **a thatched/slate roof** саламя́ны/шы́ферны дах **2. : the roof of one's mouth** паднябе́нне ♦ **hit the roof** *infml* раззлава́цца; **under one roof/under the same roof** пад адны́м да́хам

**roof[2]** [ru:f] *v.* **1.** крыць дах **2.** дава́ць прыту́лак

**roofer** [ˈru:fə] *n.* страха́р

**roof garden** [ˈru:fˌgɑ:dn] *n.* сад на да́ху будынка

**roofless** [ˈru:fləs] *n.* **1.** які́ не ма́е да́ху **2.** які́ не ма́е прыту́лку; бяздо́мны

**roof rack** [ˈru:fræk] *n.* бага́жнік (*на даху аўтамабіля*)

**rook** [rʊk] *n.* **1.** *zool.* грак **2.** *chess* ладдзя́, тура́

**rookie** [ˈrʊki] *n. infml* навічо́к, нявóпытны рабо́тнік

**room[1]** [ru:m, rʊm] *n.* **1.** пако́й; **a dining room** стало́вая; **a living room** гасці́ная; **a three-roomed/ three-room appartment** трохпакаёвая кватэ́ра **2.** ну́мар у гасці́ніцы; **a single/ double room** аднаме́сны/двухме́сны ну́мар **3.** ме́сца, прасто́ра; *I'd like to bring the children if there's room in the car.* Я б узяла дзяцей, калі ў машыне будзе месца. **4.** магчы́масць; *There was no room for doubt*. Не было падставы сумнявацца. ♦ **room and board** кватэ́ра і стол; по́ўны пансіён; **no room to swing a cat** *infml* няма́ дзе павярну́цца

**room[2]** [ru:m, rʊm] *v. AmE* **(with, together)** жыць на кватэ́ры; займа́ць пако́й; *Shall we room together?* Ці не пасяліцца нам разам?

**roomful** [ˈru:mfʊl] *n.* по́ўны пако́й; *It was impossible to concentrate on reading in the roomful of people.* Цяжка было засяродзіць увагу на чытанні ў пакоі, поўным народу.

**room-mate** [ˈru:mmeɪt] *n.* тава́рыш па пако́і

**room service** [ˈru:mˌsɜ:vɪs] *n.* абслуго́ўванне нумаро́ў у гасці́ніцы

**roomy** [ˈru:mi, rʊmi] *adj.* прасто́рны, свабо́дны; умяшча́льны

**rooster** [ˈru:stə] *n.* пе́вень

**root[1]** [ru:t] *n.* **1.** ко́рань (*расліны*); **take roots** пуска́ць карані́; **root vegetables** караняплóды **2.** прычы́на, крыні́ца; **the root of the problem** крыні́ца прабле́мы **3.** ко́рань (*зуба, языка, валаса*); **the root of a tooth** ко́рань зу́ба **4.** *pl.* **roots** карані́, су́вязі; прывы́чнае акружэ́нне **5.** *ling., math.* ко́рань ♦ **put down roots** пуска́ць карані́; **root and branch** грунто́ўна, карэ́нным чы́нам; радыка́льна

**root[2]** [ru:t] *v.* **1.** пуска́ць карані́, укараня́цца (*пра расліны*) **2.** рыць зямлю́ (*пра жывёл*) **3. (about/around/through)** капа́цца, шука́ць; **root through a bag** капа́цца у су́мцы; *I managed to root out a copy of the magazine*. Мне ўдалося адшукаць экзэмпляр часопіса. **4. (to)** прыко́ўваць (*перан.*); *Fear rooted him to the ground.* Страх прыкаваў яго на месцы. **5. : root for smb.** *infml* заахво́чваць; адабра́ць, хвалі́ць, падтры́мліваць каго́-н.

**root out** [ˌru:tˈaʊt] *phr.v.* выкараня́ць, вынішча́ць (*перан.*)

**root up** [ˌru:tˈʌp] *phr. v.* выкарчо́ўваць, выко́пваць (*пра расліны*)

**rootless** [ˈru:tləs] *adj.* **1.** бязро́дны, без каранёў, які́ не ма́е каранёў (*пра чалавека*) **2.** безгрунто́ўны, беспадста́ўны

**rope[1]** [rəʊp] *n.* **1.** кана́т, вяро́ўка **2.** ні́тка, вя́зка; **a rope of onions** вя́зка цыбу́лі; **a rope of pearls** ні́тка жэ́мчугу ♦ **give smb. enough rope** даць каму́-н. свабо́ду дзе́янняў; **a rope of sand** падма́нлівая трыва́ласць; **know the ropes** *infml* ве́даць усе́ хады́ і вы́хады

**rope[2]** [rəʊp] *v.* **1.** прывя́зваць (*што-н. да чаго-н.*) **2. (together)** звя́зваць

**rope in** [ˌrəʊpˈɪn] *phr.v. infml* **: rope smb. in/ into smth.** замані́ць, зава́біць, уцягну́ць каго́-н. у што-н.

**rope off** [ˌrəʊpˈɒf] *phr.v.* агаро́джваць (*вяроўкай і да т.п.*)

**rope ladder** [ˌrəʊpˈlædə] *n.* вяро́вачная ле́свіца

**ropy** [ˈrəʊpi] *adj. BrE, infml* (*таксама* **ropey**) **1.** дрэ́нны, ке́пскі, благі́ **2.** няду́жы, хвараві́ты

**rose[1]** [rəʊz] *n.* **1.** *bot.* ру́жа **2.** ружо́вы ко́лер ♦ **be coming up roses** *infml* знахо́дзіцца ў выда́тным ста́не; **have roses in one's cheeks** *infml* ≅ кроў з малако́м; як ма́каў цвет

**rose[2]** [rəʊz] *adj.* (*таксама* **rose pink**) ружо́вы

**rose[3]** [rəʊz] *past* → **rise[2]**

**rosebud** [ˈrəʊzbʌd] *n.* буто́н ру́жы

**rose-colored** [ˈrəʊzˌkʌləd] *AmE* = **rose-coloured**
**rose-coloured** [ˈrəʊzˌkʌləd] *adj. BrE* **1.** ружо́вы **2.** пryва́бны, прые́мны; жыццяра́дасны; **view the world through rose-coloured spectacles** глядзе́ць на свет праз ружо́выя акуля́ры
**rose hip** [ˈrəʊzhɪp] *n.* плод шыпшы́ны
**rosemary** [ˈrəʊzməri] *n. bot.* размары́н
**rose pink** [ˌrəʊzˈpɪŋk] = **rose**
**rose water** [ˈrəʊzˌwɔːtə] *n.* ружо́вая вада
**roster** [ˈrɒstə] *n.* спіс, рэе́стр; гра́фік; раскла́д
**rostra** [ˈrɒstrə] *pl.* → **rostrum**
**rostrum** [ˈrɒstrəm] *n.* (*pl.* **rostrums** *or* **rostra**) трыбу́на; ка́федра
**rosy** [ˈrəʊzi] *adj.* **1.** ружо́вы; румя́ны; **rosy cheeks** румя́ныя шчо́кі **2.** ра́дасны
**rot¹** [rɒt] *n.* **1.** гніе́нне **2. the rot** гніе́нне (*перан.*); *The rot set in.* Пачалася паласа няўдач. **3.** *BrE, dated* лухта́, глу́пства, недарэ́чнасць; *Don't talk rot!* Кінь малоць бязглуздзіцу!
**rot²** [rɒt] *v.* гні́сці; гнаі́ць; псава́ць; псава́цца; *Sugar rots your teeth.* Ад цукру псуюцца зубы.
**rotate** [rəʊˈteɪt] *v.* **1. (about/around)** круці́ць; круці́цца; варо́чаць; варо́чацца; **rotate a wheel** круці́ць ко́ла **2.** чаргава́ць; чаргава́цца; змяня́цца па чарзе́
**rotation** [rəʊˈteɪʃn] *n.* **1.** кручэ́нне; вярчэ́нне; варо́чанне; абаро́т; **one hundred rotations per minute** сто абаро́таў за міну́ту; **the rotation of the earth on its axis** вярчэ́нне Зямлі́ вако́л сваёй во́сі **2.** рата́цыя, чаргава́нне; перыяды́чнае паўтарэ́нне; **in rotation** па чарзе́; на зме́ну
**rotten** [ˈrɒtn] *adj.* **1.** гнілы́, прагні́лы; сапсава́ны; ту́хлы; **rotten floorboards** прагні́лыя масні́цы; **a rotten egg** ту́хлае я́йка **2.** *infml* несумле́нны **3.** *infml* пага́ны, паску́дны; дрэ́нны; агі́дны; **rotten weather** ве́льмі дрэ́ннае надво́р'е; **a rotten player** ніку́ды не ва́рты ігро́к; **rotten work** халту́рная рабо́та ♦ **a rotten apple** ≅ паршы́вая аве́чка
**rotund** [rəʊˈtʌnd] *adj. fml* **1** по́ўны; пу́хлы; **a rotund figure** пу́хлая фігу́ра **2.** сферы́чны, шарападо́бны
**rotunda** [rəʊˈtʌndə] *n. archit.* рато́нда
**rouble** [ruːbl] *n.* рубе́ль
**rough¹** [rʌf] *n. dated, infml* грубія́н, хулiга́н ♦ **in rough** у незако́нчаным вы́глядзе; **take the rough with the smooth** сто́йка перано́сіць зме́нлівасць лёсу (*няўдачы і ўдачы*)
**rough²** [rʌf] *adj.* **1.** няро́ўны; шурпа́ты; **rough hands** шурпа́тыя ру́кі **2.** прыблі́зны; **a rough estimate** прыблі́зны каштары́с; **a rough idea** прыблі́знае ўяўле́нне **3.** няве́тлівы; бу́рны; разбушава́ны; **rough weather** не́пагадзь; **a rough game** гру́бая гульня́ **4.** неапрацава́ны; **rough leather** нявы́рабленая ску́ра **5.** чарнавы́; **a rough draft** эскі́з; **a rough copy** чарнаві́к **6.** ця́жкі, непрые́мны; *He had a rough time.* Яму прыйшлося крута.
**rough³** [rʌf] *v.* : ♦ **rough it** *infml* абыхо́дзіцца без звыча́йных выго́д; перано́сіць, цярпе́ць няго́ды
**rough out** [ˌrʌfˈaʊt] *phr.v.* рабі́ць (*што-н.*) у агу́льных ры́сах; **rough out an article** накі́даць артыку́л; **rough out some arrangements** наме́ціць прыблі́зны план
**rough up** [ˌrʌfˈʌp] *phr.v. infml* збі́ць, мо́цна пабі́ць (*каго-н.*); *He was roughed up and pushed into the street.* Яго збілі і выкінулі на вуліцу.
**rough⁴** [rʌf] *adv.* гру́ба; **treat smb. rough** дрэ́нна абыхо́дзіцца з кім-н. ♦ **live/sleep rough** *BrE* жыць без выго́д
**rough-and-ready** [ˌrʌfəndˈredi] *adj.* **1.** зро́блены спе́хам, зро́блены абы-я́к **2.** грубава́ты, бесцырымо́нны
**roughly** [ˈrʌfli] *adv.* **1.** прыблі́зна **2.** гру́ба; недаліка́тна; няве́тліва
**roughness** [ˈrʌfnəs] *n.* **1.** шурпа́тасць **2.** няро́ўнасць **3.** гру́басць
**round¹** [raʊnd] *n.* **1.** тур; эта́п; ра́ўнд; **the final round** фіна́л; **the next round of peace talks** чарго́вы ра́ўнд мі́рных перамо́ў; **the second round of voting in the election** другі́ тур галасава́ння на вы́барах **2.** цыкл; се́рыя; **a round of duties** ко́ла абавя́зкаў; **the daily round** штодзённыя спра́вы **3.** *BrE* лу́стачка, скі́бачка (*хлеба*) **4.** чарго́вая по́рцыя спіртно́га; *They had another round.* Яны выпілі яшчэ па адной. **5.** вы́бух (*апладысментаў*) **6.** круг; акру́жнасць; ко́льца; *A cucumber was sliced into rounds.* Агурок быў нарэзаны на кольцы. ♦ **do/go the rounds** *BrE* цыркулява́ць (*пра чуткі, плёткі, весткі і да т.п.*); перахо́дзіць з ву́снаў у ву́сны; **in the round** аб'ёмны; ба́чны з усі́х бако́ў
**round²** [raʊnd] *adj.* **1.** кру́глы; шарападо́бны; сферы́чны; **as round as a ball** кру́глы як шар **2.** по́ўны, пухна́ты, з акру́глымі фо́рмамі; **round cheeks** пухна́тыя шчо́кі **3.** кру́глы, прыблі́зны (*пра лічбы*); **in round numbers** у акру́гленых лі́чбах; *His year's profit was about $ 5 000 as a round figure.* Яго гадавы прыбытак складаў прыблізна 5 тысяч долараў.
**round³** [raʊnd] *v.* **1.** агіна́ць; абыхо́дзіць круго́м; *We rounded the corner.* Мы завярнулі за вугал; *The ship rounded the cape.* Карабель абагнуў мыс. **2.** акругля́ць; акругля́цца; рабі́цца кру́г-

лым; *Her eyes rounded with amazement*. Ад здзіўлення яе вочы акругліліся. **3. (up/down)** акругля́іць, вы́разіць у кру́глых лі́чбах

**round off** [ˌraʊndˈɒf] *phr.v.* **1.** завяршáць, канчáць **2.** выраўно́ўваць

**round up** [ˌraʊndˈʌp] *phr.v.* **1.** збірáць у адны́м мéсцы, склікáць **2.** зганя́ць; акружáць; рабіць аблáву

**round[4]** [raʊnd] *adv.* наво́кал, навако́л, наўко́л, вако́л; **all the year round** кру́глы год; **better all round** лéпей ва ўсіх адно́сінах; *She did not turn round.* Яна не азірнулася.

**round[5]** [raʊnd] *prep.* наво́кал, навако́л, наўко́л, вако́л (*каго-н./чаго-н.*); **round the corner** за вугло́м; **round the table** вако́л сталá; **round the world** вако́л свéту; *She had a necklace round her neck.* На шыі ў яе былі каралі. ♦ **round here** нéдзе по́бач

**roundabout[1]** [ˈraʊndəbaʊt] *n.* **1.** кальцавáя трáнспартная развя́зка з аднабако́вым ру́хам **2.** карусéль

**roundabout[2]** [ˈraʊndəbaʊt] *adj.* акружны́; абхо́дны

**rounded** [ˈraʊndɪd] *adj.* закру́глены, акру́глы

**round-shouldered** [ˌraʊndˈʃəʊldəd] *adj.* суту́лы

**round-the-clock** [ˌraʊndðəˈklɒk] *adj.* круглясу́тачны

**round trip** [ˌraʊndˈtrɪp] *n.* паéздка туды́ і назáд

**rouse** [raʊz] *v.* **1.** *fml* будзíць, абуджáць; абуджáцца; *I was roused by the ringing of the bell*. Мяне разбудзіў званок. **2.** падахво́чваць, заахво́чваць; схіля́ць **3.** *fml* узбуджáць (*пачуцці, дзейнасць*); **rouse interest** выклікáць цікáвасць **4.** раздражня́ць, выво́дзіць з сябé; *He is not easily roused.* Яго цяжка вывесці з сябе.

**rout[1]** [raʊt] *n.* разгро́м, паражэ́нне; хааты́чныя ўцёкі

**rout[2]** [raʊt] *v.* разбівáць ушчэ́нт

**route[1]** [ruːt] *n.* **1.** маршру́т; **a bus route** маршру́т аўто́буса **2.** даро́га, трáса; *We weren't sure which route we should take*. Мы не ведалі, па якой дарозе паехаць. **3.** сро́дак, шлях; **a route to fame** шлях да слáвы

**route[2]** [ruːt] *v.* адпраўля́ць па вы́значаным маршру́це

**routine[1]** [ruːˈtiːn] *n.* **1.** завéдзены парáдак; пэ́ўны рэжы́м; распарáдак дня **2.** руці́на, шабло́н **3.** *comput.* (стандáртная) прагрáма; падпрагрáма **4.** ну́мар; выступлéнне; **a dance routine** танцавáльны ну́мар

**routine[2]** [ruːˈtiːn] *adj.* **1.** рэгуля́рны; чаргóвы; які́ адпавядáе завéдзенаму парáдку; **routine duties** вы́значаныя службо́выя абавя́зкі; *It's just a routine medical examination, nothing to get worried about.* Няма чаго хвалявацца – гэта звычайны медагляд. **2.** манато́нны, шабло́нны

**rove[1]** [rəʊv] *n. fml* бязмэ́тная прагу́лка, бадзя́нне; **be on the rove** прагу́львацца

**rove[2]** [rəʊv] *v. fml* **1.** вандравáць; бадзя́цца, блукáць; *He roved in every land.* Ён усюды пабываў. **2.** блукáць (*пра вочы, думкі*); *His eyes roved over the pictures.* Яго позірк блукаў па карцінах.

**row[1]** [rəʊ] *n.* **1.** рад, шэ́раг; **a row of figures** шэ́раг лі́чбаў; **in a row** у рад **2.** рад (*у тэатры*); *Their seats were in the front row of the stalls.* Яны сядзелі ў першым радзе партэра. ♦ **in a row** падрáд

**row[2]** [rəʊ] *n.* веславáнне; прагу́лка на ло́дцы; *They decided to go for a row.* Яны вырашылі пакатацца на лодцы.

**row[3]** [rəʊ] *v.* **1.** веславáць; **row a boat** веславáць на ло́дцы; **row against the wind** веславáць су́праць вéтру; **row against smb.** спабо́рнічаць з кім-н. у вясля́рных го́нках **2.** перавo̒зіць у ло́дцы; **row to/out the shore** веславáць да/ад бéрага; **row smb. across the river** перапрáвіць каго́-н. праз раку́

**row[4]** [raʊ] *n. infml* **1.** шу́мная свáрка, спрэ́чка, скандáл; **family rows** сямéйныя спрэ́чкі; **have a row with smb. about/over smth.** пасвары́цца, паскандáліць з кім-н. з-за чаго́-н. **2.** шум; **make a row** усчынáць шум

**row[5]** [raʊ] *v. BrE, infml* скандáліць, шумéць, буя́ніць

**rowan** [ˈrəʊən, ˈraʊən] *n.* (*таксама* **rowan tree**) рабі́на

**rowboat** [ˈrəʊbəʊt] *n. AmE* вёсельная шлю́пка

**rowdy[1]** [ˈraʊdi] *n.* грубія́н

**rowdy[2]** [ˈraʊdi] *adj.* шу́мны; гру́бы; **a rowdy crowd** шу́мны нато́ўп

**rower** [ˈrəʊə] *n.* вясля́р

**rowing** [ˈrəʊɪŋ] *n. sport* грэ́бля

**rowing boat** [ˈrəʊɪŋbəʊt] *n. BrE* вёсельная шлю́пка

**royal[1]** [ˈrɔɪəl] *n. infml* член каралéўскай сям'і

**royal[2]** [ˈrɔɪəl] *adj.* **1.** каралéўскі, цáрскі; **the royal family** каралéўская сям'я́ **2.** каралéўскі (*у назвах*); **Royal Botanic Gardens** Каралéўскі батані́чны сад **3.** пы́шны, раско́шны; **a royal welcome** пы́шны прыём

**Royal Academy** [ˌrɔɪələˈkædəmi] *n.* **the Royal Academy** (*таксама* **the Royal Academy of Arts**) Каралéўская акадэ́мія мастáцтваў

**royal blue** [ˌrɔɪəlˈbluː] *n.* я́рка-сíні ко́лер

**Royal Highness** [ˌrɔɪəlˈhaɪnəs] *n.* **: His/Her/Your Royal Highness** Яго́/Яé/Вáша каралéўская высо́касць

**royalist** [ˈrɔɪəlɪst] *n.* раялі́ст

**royalty** [ˈrɔɪəlti] *n.* **1.** прадстаўнікі́ каралéўскай сям'і **2.** *pl.* **royalties** áўтарскі ганарáр, адлічэ́нні áўтару **3.** *pl.* **royalties** плáта за прáва распрацóўкі нéтраў; **oil royalties** плáта за прáва здабы́чы нáфты

**RP** [ˌɑːˈpiː] *n.* (*скар. ад* **Received Pronunciation**) нарматы́ўнае вымаўлéнне (*брытанскага варыянта англійскай мовы*)

**rub**[1] [rʌb] *n.* **1.** націрáнне, расцірáнне; сцірáнне; **the rub of a brush** чы́стка шчóткай **2.** *fml* перашкóда, замі́нка, ця́жкасць; *There is the rub!* А ў гэтым якраз і загваздка!

**rub**[2] [rʌb] *v.* **1. (with)** цéрці; цéрціся; націрáць; пацірáць; *She rubbed her hands in delight.* Яна з задавальненнем пацерла рукі; *A cat was rubbing against my leg.* Кот цёрся аб маю нагу. **2.** выцірáць (*пыл і да т.п.*); працірáць; **rub cups with a towel** працірáць кýбкі ручнікóм ♦ **rub shoulders with smb.** вадзі́ць кампáнію з кім-н.; **rub smb. up the wrong way** *BrE, infml* раздражня́ць, злавáць кагó-н.; глáдзіць сýпраць шэ́рсці; **rub smb.'s nose in it** *infml* упікáць кагó-н за што-н.; рабі́ць папрóк

**rub along** [ˌrʌbˈəlɒŋ] *phr.v. BrE, infml* лáдзіць, ужывáцца; *We rubbed along very unhappily.* Мы не змаглі ўжыцца.

**rub down** [ˌrʌbˈdaʊn] *phr.v.* **1.** абцірáць; выцірáць; **rub oneself down with a towel** вы́церціся ручнікóм **2.** зачышчáць **3.** масажавáць

**rub in** [ˌrʌbˈɪn] *phr.v.* **1.** убівáць у галавý, удзёўбваць **2.** уцірáць (*мазь і да т.п.*)

**rub off** [ˌrʌbˈɒf] *phr.v.* сцірáць, счышчáць; **rub the rust off** счышчáць іржý

**rub out** [ˌrʌbˈaʊt] *phr.v.* **1.** *BrE* сцірáць, вычышчáць (*нанесенае алоўкам*) **2.** *AmE, slang* прышы́ць (*забіць*); зні́шчыць, вы́нішчыць

**rubber**[1] [ˈrʌbə] *n.* **1.** рызі́на; каўчýк; **natural rubber** натурáльны каўчýк **2.** гýмка **3.** *pl.* **rubbers** галёшы

**rubber**[2] [ˈrʌbə] *adj.* рызі́навы, гýмавы; **rubber gloves** рызі́навыя пальчáткі; **a rubber bullet** рызі́навая кýля

**rubberized,** *BrE* **-ised** [ˈrʌbəraɪzd] *adj.* гумíраванны

**rubbish**[1] [ˈrʌbɪʃ] *n.* **1.** смéцце, хлам; **a rubbish bin** вядрó для смéцця; **household rubbish** старызна; макулатýра і да т.п. **2.** *infml* бязглýздзіца, лухтá

**rubbish**[2] [ˈrʌbɪʃ] *adj. BrE, infml* дрэ́нны, нікýды не вáрты; *They are a rubbish football team.* Гэтая футбольная каманда нікуды не вартая.

**rubbish**[3] [ˈrʌbɪʃ] *v. BrE, infml* трэці́раваць; кры́ўдзіць

**rubbishy** [ˈrʌbɪʃi] *adj. BrE, infml* дрэ́нны; *That's all rubbishy stuff.* Усё гэта хлам.

**rubble** [ˈrʌbl] *n.* бут, кáмень; шчэ́бень

**Rubicon** [ˈruːbɪkən] *n.* **the Rubicon** Рубікóн; **cross/pass the Rubicon** перайсці́ Рубікóн, прыня́ць беспаварóтнае рашэ́нне

**rubicund** [ˈruːbɪkənd] *adj. lit.* румя́ны (*пра твар*); *She has rubicund complexion.* У яе румяны твар.

**rubric** [ˈruːbrɪk] *n. fml* рýбрыка; загалóвак

**ruby**[1] [ˈruːbi] *n.* **1.** рубі́н **2.** рубі́навы кóлер

**ruby**[2] [ˈruːbiː] *adj.* рубі́навы; **ruby lips** чырвóныя вýсны

**ruby wedding** [ˌruːbiˈwedɪŋ] *n. BrE* рубі́навае вясéлле (*40-я гадавіна шлюбу*)

**ruche** [ruːʃ] *n.* руш

**rucksack** [ˈrʌksæk] *n. BrE* рукзáк, заплéчнік, пахóдны мяшóк

**ructions** [ˈrʌkʃnz] *n. pl.* хвалявáнні; беспарáдкі

**ruddy** [ˈrʌdi] *adj.* **1.** румя́ны; **ruddy cheeks** румя́ныя шчóкі **2.** *lit.* чырвóны; **ruddy sky** чырвóнае нéба **3.** *BrE, infml* праклЯ́ты; *You ruddy liar!* Ты пракляты лгун!

**rude** [ruːd] *adj.* **1. (to)** грýбы, нявéтлівы; абрáзлівы; *Don't be rude to your father.* Не грубі бацьку. **2.** непрыстóйны **3.** *fml* рэ́зкі; **a rude shock** раптóўны шок **4.** *lit.* прымíты́ўны ♦ **in rude health** *BrE, dated* мóцнага здарóўя

**rudely** [ˈruːdli] *adv.* **1.** абрáзліва, нахáбна, грýба **2.** мóцна; рэ́зка, раптóўна; *I was rudely interrupted.* Мяне рэзка перабілі.

**rudimentary** [ˌruːdɪˈmentri] *adj.* **1.** *fml* элементáрны; *She had a rudimentary knowledge of botany.* У яе былі элементарныя веды батанікі. **2.** *fml* рудыментáрны, недарáзвіты, зачáткавы; **a rudimentary organ** рудыментáрны óрган

**ruff** [rʌf] *n.* жабó

**ruffle**[1] [ˈrʌfl] *n.* брыжы́

**ruffle**[2] [ˈrʌfl] *v.* **1.** раздражня́ць, злавáць; *Nothing ever ruffles him.* Нічога не можа вывесці яго з сябе. **2.** рабаці́ць (*ваду*); натапы́рваць (*пер'е*); узлахмáчваць (*валасы*) ♦ **ruffle smb.'s/a few feathers** *infml* глáдзіць кагó-н. сýпраць шэ́рсці

**rug** [rʌg] *n.* **1.** дыванóк, дывáн **2.** *BrE* плед

**rugby** [ˈrʌgbi] *n. sport* рэ́гбі

**rugged** [ˈrʌgɪd] *adj.* **1.** нярóўны, нягладкі (*пра ландшафт*); **rugged coast** скалі́сты бéраг **2.** грýбы; **rugged features** грýбыя ры́сы твáру **3.** трывáлы, устóйлівы **4.** вынóслівы, стóйкі; **rugged men** загартавáныя лю́дзі

**ruin**[1] [ˈruːɪn] *n.* **1.** *pl.* **ruins** руі́ны, развáліны; **the ruins of Rome** ры́мскія руі́ны **2.** гі́бель, крушэ́нне; разарэ́нне; **the ruins of one's hopes** крушэ́нне ўсіх надзéй; *Gambling was his ruin.* Азартная гульня загубіла яго. ♦ **in ruins** у руі-

нах; *The town lay in ruins*. Горад ляжаў у руінах; *His life lay in ruins.* Яго жыццё было загублена.

**ruin**[2] [ˈruːɪn] *v.* **1.** разбура́ць, знішча́ць, ні́шчыць; псава́ць; *The storm ruined the crops*. Бура знішчыла ўраджай. **2.** разара́ць; *He was ruined.* Ён разарыўся.

**ruination** [ˌruːɪˈneɪʃn] *n. fml* знішчэ́нне, (па)гі́бель; по́ўнае разарэ́нне

**ruined** [ˈruːɪnd] *adj.* **1.** разбу́раны, разва́лены **2.** зні́шчаны, загу́блены; **ruined health** падарва́нае здаро́ўе

**ruinous** [ˈruːɪnəs] *adj. fml* згу́бны, разбура́льны

**rule**[1] [ruːl] *n.* **1.** пра́віла; но́рма; пры́нцып; **break the rule** пару́шыць пра́віла; **follow the rules** выко́нваць пра́вілы; **rules of behaviour** пра́вілы паво́дзін; **unwritten rules** няпі́саныя пра́вілы **2.** прывы́чка, звы́чай; **as a rule** як пра́віла; *Make it a rule to get up early*. Завядзі сабе правіла ўставаць рана. **3.** кірава́нне; ула́да **4.** ліне́йка

**rule**[2] [ruːl] *v.* **1.** кірава́ць, панава́ць; ула́дарыць **2.** выраша́ць (*справу*); пастанаўля́ць; *The judge ruled that she should have custody.* Суддзя пастанавіў, што ёй павінны прызначыць апякунства. **3.** ліне́іць, разліне́йваць ♦ **rule the roast** *infml* упраўля́ць; распараджа́цца, кама́ндаваць; **rule (smb./smth.) with a rod of iron** пра́віць (кім-н./чым-н.) жале́знай руко́й

**rule off** [ˌruːlˈɔf] *phr.v.* аддзяля́ць ры́сай; праве́сці ліне́йкай ры́су

**rule out** [ˌruːlˈaʊt] *phr.v.* выключа́ць; *He was ruled out of the game.* Яго выключылі з гульні.

**ruler** [ˈruːlə] *n.* **1.** праві́цель **2.** ліне́йка

**ruling**[1] [ˈruːlɪŋ] *n.* пастано́ва, рашэ́нне

**ruling**[2] [ˈruːlɪŋ] *adj.* які́ ма́е ўла́ду, кіру́ючы

**rum** [rʌm] *n.* ром

**r(h)umba** [ˈrʌmbə] *n.* ру́мба (*танец*)

**rumble**[1] [ˈrʌmbl] *n.* **1. (of)** гру́кат, груката́нне; гул; **the rumble of thunder** гру́кат гро́му; **the rumble of an earthquake** гул землетрасе́ння **2.** *AmE, infml* бо́йка на ву́ліцы памі́ж ба́ндамі

**rumble**[2] [ˈrʌmbl] *v.* **1.** груката́ць; грыме́ць; *A lorry rumbled along the road.* Па дарозе прагрукатаў грузавік. **2.** бурча́ць, буркатáць **3.** *BrE, infml* ба́чыць наскро́зь

**ruminant**[1] [ˈruːmɪnənt] *n. zool.* жва́чныя

**ruminant**[2] [ˈruːmɪnənt] *adj.* жва́чны; **ruminant animals** жва́чныя жывёлы

**ruminate** [ˈruːmɪneɪt] *v.* **1.** *fml* ду́маць, разду́мваць, развaжа́ць; **ruminate on/over/about a project** абду́мваць пра́ект **2.** *zool.* жава́ць жва́чку

**rummage**[1] [ˈrʌmɪdʒ] *n.* во́быск; по́шукі

**rummage**[2] [ˈrʌmɪdʒ] *v.* **(in, about, around, through)** капа́цца, ко́рпацца, шука́ць, абшу́кваць; **rummage around in a desk** ко́рпацца ў пісьмо́вым стале́

**rummage sale** [ˈrʌmɪdʒseɪl] *n.* бараxо́лка; распро́даж стары́х рэ́чаў, адзе́ння

**rumor** [ˈruːmə] *AmE* = **rumour**

**rumour**[1] [ˈruːmə] *n.* **(of/about)** чу́тка

**rumour**[2] [ˈruːmə] *v.* **: it is rumoured that…** хо́дзяць чу́ткі, што…; **he is rumoured to be…** гаво́раць, што ён…; *Someone rumoured that John was leaving*. Хтосьці пусціў чутку, што Джон ад'язджае.

**rump** [rʌmp] *n.* зад (*у жывёлы*); аза́дак (*у чалавека і жывёлы*)

**rumple** [ˈrʌmpl] *v.* **1.** мяць; камячы́ць; *He rumpled the letter*. Ён скамячыў пісьмо. **2.** кудла́ціць, лахма́ціць (*валасы*)

**rump steak** [ˌrʌmpˈsteɪk] *n.* рамштэ́кс; вы́разка (*частка філею*)

**rumpus** [ˈrʌmpəs] *n. infml* шум, го́ман; сканда́л; *What is all this rumpus about?* З-за чаго ўвесь гэты шум?

**run**[1] [rʌn] *n.* **1.** бег, прабе́г; **go for a run** прабе́гчыся; *She usually goes for a run before breakfast*. Яна звычайна робіць прабежку перад снеданнем. **2.** каро́ткая пае́здка (*на аўтамабілі, цягніком, самалётам і да т.п.*) **3.** рэйс; маршру́т **4.** перы́яд, адрэ́зак (*часу*); **a run of good/bad luck** паласа́ шанцава́ння/няўда́ч **5.** дэманстра́цыя, пака́з, прагля́д (*фільма, спектакля*); **the first run of the film** прэм'е́ра кінафі́льма **6. (on)** по́пыт; *There is a great run on this book*. Гэтая кніга карыстаецца вялікім попытам. **7.** цячэ́нне; ход (*падзей*); **the run of the disease** цячэ́нне хваро́бы; **the usual run of things** звыча́йнае стано́вішча спраў

**run**[2] [rʌn] *v.* **(ran, run) 1.** бе́гчы, бе́гаць; **run a race** прабе́гчы дыста́нцыю; *I had to run to catch the bus.* Мне прыйшлося бегчы, каб паспець на аўтобус. **2.** право́дзіць спабо́рніцтвы, ска́чкі і да т.п.; *The Derby will be run in spite of bad weather.* Дэрбі адбудуцца нягледзячы на дрэннае надвор'е. **3.** кірава́ць устано́вай, ве́сці спра́ву прадпрые́мства і да т.п.; **run a hotel/ store/ school** кірава́ць гасці́ніцай/ кра́май/шко́лай; **run a business** ве́сці спра́ву **4.** кірава́ць (*аўтобусам, цягніком*) **5.** працава́ць, дзе́йнічаць (*пра машыны, механізмы*); *Most cars run on petrol.* Большасць аўтамабіляў працуюць на бензіне. **6.** хадзі́ць, е́здзіць, курсі́раваць, пла́ваць (*пра транспарт*); *The buses run daily.* Аўтобусы ходзяць штодзённа. **7.** ліць; лі́цца; цячы́, сачы́цца, струме́ніц-

ца; *Big tears ran down Stephany's face.* Па твары Стэфані каціліся буйныя слёзы. **8.** быць сапра́ўдным; *The contract runs for a year.* Кантракт дзейнічае адзін год. **9. :** *The well ran dry.* Калодзеж высах. **10.** друкава́ць, публікава́ць, змяшча́ць (*у газеце, часопісе*) **11. (for)** балаці́равацца (*на пасаду*); **run in the election** балаці́равацца на вы́барах **12.** ліня́ць (*пра колер, фарбы*) **13.** цягну́цца, распасціра́цца, рассціла́цца; *The road runs across the plain.* Дарога праходзіць па раўніне.

**run across** [ˌrʌnəˈkrɒs] *phr.v.* выпадко́ва сустрэ́ць (*каго-н.*); наткну́цца (*на каго-н./што-н.*)

**run around** [ˌrʌnəˈraʊnd] *phr.v.* бязмэ́тна бе́гаць туды́-сюды́

**run away** [ˌrʌnəˈweɪ] *phr.v.* **1.** уцяка́ць (*таксама перан.*) **2. (with)** выйграва́ць, вы́йгрываць (*гульню, прыз, спаборніцтва*); *She ran away with the gold medal.* Яна выйграла залаты медаль.

**run down** [ˌrʌnˈdaʊn] *phr.v.* **1.** спыня́ць; спыня́цца (*пра механізм і да т.п.*) **2.** разрадзі́цца (*пра батарэйку*) **3.** збіць (*каго-н./што-н.*); *The dog was run down by a car.* Сабаку збіла машына. **4.** знява́жліва гавары́ць (*пра каго-н.*)

**run into** [ˌrʌnˈɪntə] *phr.v.* **1.** нечака́на сустрэ́ць (*каго-н.*) **2. : run into smb./smth.** налята́ць; натыка́цца на каго́-н./што-н.; сутыка́цца з кім-н./чым-н.; *He ran his car into a tree.* Ён урэзаўся ў дрэва.

**run off** [ˌrʌnˈɒf] *phr.v.* **1.** бе́гчы, уцяка́ць **2.** друкава́ць (*рабіць копіі*) **3.** страчы́ць (*вершы, артыкулы і да т.п.*)

**run on** [ˌrʌnˈɒn] *phr.v.* праця́гвацца, до́ўжыцца

**run out** [ˌrʌnˈaʊt] *phr.v.* **1.** выбяга́ць **2. : run out of (smth.)** канча́цца, вычэ́рпвацца (пра што-н.);

**run over** [ˌrʌnˈəʊə] *phr.v.* **1.** пераліва́цца це́раз край **2.** пераехаць (*каго-н./што-н.*)

**run through** [ˌrʌnˈθruː] *phr.v.* **1.** *lit.* **(with)** праткну́ць, пранíза́ць (*нажом*) **2.** ху́тка прагле́дзець; абмеркава́ць

**run up** [ˌrʌnˈʌp] *phr.v.* **1.** падыма́ць, паднíма́ць **2.** рабíць што-н. ху́тка **3.** дахо́дзіць; дасяга́ць **4.** сустрака́цца з ця́жкасцямі

**runaway**[1] [ˈrʌnəweɪ] *n.* уцяка́ч

**runaway**[2] [ˈrʌnəweɪ] *adj.* **1.** які́ ўцёк, збе́глы **2.** лёгкі, які́ дастаўся без пра́цы; **a runaway victory** лёгкая перамо́га **3.** нястры́мны, які́ ху́тка расце́; **runaway inflation** нястры́мная інфля́цыя

**rundown**[1] [ˈrʌndaʊn] *n.* **1.** сці́слы перака́з; канспе́кт **2. (on/of)** інфарма́цыя **3.** *BrE* **(in/of)** скарачэ́нне; **a rundown of transport services** скарачэ́нне тра́нспартных паслу́г

**run-down**[2] [ˌrʌnˈdaʊn] *adj.* **1.** у дрэ́нным ста́не, запу́шчаны; *It was a big run-down villa.* Гэта была вялікая занядбаная віла. **2.** сто́млены, змо́раны; знясі́лены

**rung** [rʌŋ] *p.p.* → **ring**[3]

**run-in** [ˈrʌnɪn] *n.* **1.** *infml* **(with)** сва́рка, схва́тка **2.** (*таксама* **run-up**) *BrE* **(to)** падрыхто́ўка (*да чаго-н.*)

**runner** [ˈrʌnə] *n.* **1.** бягу́н, удзе́льнік спабо́рніцтва па бе́гу; **a long-distance runner** бягу́н на до́ўгую дыста́нцыю; **a marathon runner** марафо́нец **2.** пасы́льны, кур'е́р **3.** по́лаз (*у санях*)

**runner bean** [ˌrʌnəˈbiːn] *n. bot. BrE* фасо́ля (*струкавая*)

**running**[1] [ˈrʌnɪŋ] *n.* **1.** бе́ганне, бег; **take up running** займа́цца бе́гам **2.** кірава́нне; **the day-to-day running of a business** штодзённае кірава́нне бі́знесам ♦ **in/out of the running (for smth.)** *infml* мець ша́нсы/не мець ша́нсаў (на што-н.)

**running**[2] [ˈrʌnɪŋ] *adj.* **1.** бягу́чы; **a running commentary** рэпарта́ж (*з месца падзеі*); **running events** бягу́чыя падзе́і; **running repairs** бягу́чы рамо́нт **2.** цяку́чы (*пра ваду*); **running water** водаправо́д; прато́чная вада́ **3.** бесперапы́нны; паслядо́ўны

**running**[3] [ˈrʌnɪŋ] *adv.* за́пар; *Sylvia has won the poetry prize for the fourth year running.* Чацвёрты год запар Сільвія выйграе прыз у паэтычным конкурсе.

**runny** [ˈrʌni] *adj.* **1.** цяку́чы, ва́дкі; **a runny paste** ва́дкая па́ста; *The butter got runny in the sun.* Масла растапілася на сонцы. **2.** мо́крэ (*пра нос, вочы і да т.п.*); *I have a runny nose.* У мяне насмарк.

**run-through** [ˈrʌnθruː] *n.* рэпеты́цыя; праго́н, прагля́д

**run-up** [ˈrʌnʌp] *n. BrE* падрыхто́ўка; папярэ́дняе мерапрые́мства; пярэ́дадзень; *It happened in the run-up to the election.* Гэта здарылася ў час передвыбарчай кампаніі.

**runway** [ˈrʌnweɪ] *n.* узлётна-паса́дачная паласа́

**rupee** [ruːˈpiː] *n.* ру́пія (*грашовая адзінка Індыі, Пакістана і некаторых іншых краін*)

**rupture**[1] [ˈrʌptʃə] *n.* **1.** разры́ў; прары́ў; **the rupture of an oil pipeline** разры́ў нафтаправо́да; **the rupture of a blood vessel** разры́ў крывяно́снага сасу́да **2.** *med.* гры́жа **3.** *fml* разла́д; разры́ў; **the rupture of diplomatic relations** разры́ў дыпламаты́чных адно́сін

**rupture**[2] [ˈrʌptʃə] *v.* **1.** прарыва́ць, разрыва́ць; разрыва́цца; **a ruptured ulcer** прабадна́я я́зва **2.** надарва́цца **3.** разрыва́ць (*адносіны*)

**rural** [ˈrʊərəl] *adj.* се́льскі, вяско́вы; **rural scenery** се́льскі пейза́ж; **rural customs** вяско́выя звы́чаі; **rural economy** се́льская гаспада́рка

**ruse** [ruːz] *n.* хі́трасць; хі́трыкі, вы́крут

**rush**[1] [rʌʃ] *n. bot.* трыснёг; чаро́т

**rush**[2] [rʌʃ] *n.* **1.** імклі́вы рух; **a rush of cold air** струме́нь хало́днага паве́тра; **a rush of blood to the head** прылі́ў крыві́ да галавы́; **a rush of anger** пры́ступ гне́ву **2.** спе́шка; паспе́х; **be in a rush** спяша́цца; **the Christmas rush** перадкаля́дная мітусня́ **3. (for/on)** вялі́кі по́пыт (*на што-н.*); *There was a rush for the newspapers*. Газеты купляліся нарасхват.

**rush**[3] [rʌʃ] *v.* **1.** кі́дацца, імча́цца, не́сціся **2.** дзе́йнічаць паспе́шліва, хапа́цца **3.** выко́нваць ве́льмі ху́тка; *The injured were rushed to the hospital*. Пацярпелых хутка даставілі ў бальніцу. **4. (into)** падганя́ць, прымуша́ць (*каго-н.*) рабі́ць паспе́шліва (*што-н.*); *She rushed him into marriage*. Яна ажаніла яго з сабой. **5.** ры́нуцца; браць шту́рмам

**rush out** [ˌrʌʃˈaruː] *phr.v.* выра́бля́ць, выпуска́ць (*што-н. вельмі хутка*)

**rush through** [ˌrʌʃˈθruː] *phr.v.* без прамару́джвання вырашаць пыта́нні ў афіцы́йных, ура́давых, камерцы́йных о́рганах; *The legislation was rushed through parliament.* Законапраект адразу ж быў прыняты парламентам.

**rush hour** [ˈrʌʃaʊə] *n.* гадзі́ны пік; *It's difficult to get to work at rush hour*. У гадзіны пік цяжка дабірацца да работы.

**rusk** [rʌsk] *n.* суха́р, суха́рык

**russet** [ˈrʌsɪt] *adj.* чырванава́та-карычневы

**Russian**[1] [ˈrʌʃn] *n.* **1.** ру́скі; ру́ская; **a Russian** расія́нін; расія́нка; **the Russians** ру́скія **2.** ру́ская мо́ва

**Russian**[2] [ˈrʌʃn] *adj.* ру́скі; расі́йскі; **the Russian language** ру́ская мо́ва

**Russian doll** [ˌrʌʃnˈdɒl] *n.* матро́шка

**Russian roulette** [ˌrʌʃnruːˈlet] *n.* ру́ская руле́тка

**rust**[1] [rʌst] *n.* **1.** ржа́; *There were large patches of rust on the car*. На машыне былі вялікія плямы ржы. **2.** ко́лер іржы́ **3.** ржа́ (*хвароба раслін*)

**rust**[2] [rʌst] *v.* ржаве́ць; пакрыва́цца ржо́й

**rustic**[1] [ˈrʌstɪk] *n. hum.* дзераве́ншчына

**rustic**[2] [ˈrʌstɪk] *adj.* **1.** про́сты; несапсава́ны; **rustic simplicity** вяско́вая прастата́ **2.** гру́бы, нечаса́ны; **a rustic bridge** мост з нечаса́нага ле́су

**rustle**[1] [ˈrʌsl] *n.* шо́лах, шалясце́нне, шамаце́нне, шо́рах

**rustle**[2] [ˈrʌsl] *v.* **1.** шамаце́ць, шапаце́ць; *Stop rustling that newspaper!* Перастань шамацець газетай! **2.** кра́сці жывёлу

**rustler** [ˈrʌslə] *n.* канакра́д

**rustproof** [ˈrʌstpruːf] *adj.* нержаве́ючы, каразі́йна-ўсто́йлівы

**rusty** [ˈrʌsti] *adj.* **1.** пакры́ты ржой, іржа́вы, заржаве́лы; **rusty nails** іржа́выя цвікі́ **2.** ко́леру ржы **3.** запу́шчаны; занядба́ны; забы́ты; *I'm afraid, my English is a little rusty.* Баюся, што мая англійская мова не на належным узроўні.

**rut** [rʌt] *n.* **1.** каляі́на, выбо́іна **2.** прывы́чка, руці́на; *I was stuck in a rut and decided to look for a new job.* Мяне засмактала руціна, і я вырашыў пашукаць іншую работу.

**ruthless** [ˈruːθləs] *adj.* бязлі́тасны, лю́ты, жо́рсткі; **a ruthless dictator** бязлі́тасны дыкта́тар

**rutted** [ˈrʌtɪd] *adj.* зры́ты каляі́намі

**rye** [raɪ] *n. bot.* жы́та; **rye bread** жы́тні, аржаны́ хлеб

## Ss

**S, s** [es] *n. 19-я літара англійскага алфавіта*

**SA 1.** (*пісьмовае скар. ад* **Salvation Army**) *relig.* А́рмія выратава́ння **2.** (*пісьмовае скар. ад* **South Africa, South America, South Australia)** Паўднёвая А́фрыка, Паўднёвая Аме́рыка, Паўднёвая Аўстра́лія

**Sabbatarian** [ˌsæbəˈteəriən] *n. relig.* **1.** яўрэ́й, які́ прытры́мліваецца субо́ты **2.** хрысція́нін, які́ прытры́мліваецца нядзе́лі

**Sabbath school** [ˈsæbəθˌskuːl] *n.* нядзе́льная шко́ла

**sabbatical** [səˈbætɪkl] *n.* вызвале́нне ад пра́цы (*выкладчыку ўніверсітэта для навуковай працы*); **be on sabbatical** быць у тво́рчым во́дпуску для выкана́ння навуко́вай пра́цы

**saber** [ˈseɪbə] *AmE* = **sabre**

**sable**[1] [ˈseɪbl] *n.* **1.** со́баль **2.** сабалі́нае фу́тра; **a sable coat** сабалі́нае манто́

**sable**[2] [ˈseɪbl] *n. poet.* **1.** чо́рны ко́лер **2.** *pl.* **sables** жало́ба, жало́бнае адзе́нне; **clad in rueful sables** адзе́тыя ў глыбо́кую жало́бу

**sable**[3] [ˈseɪbl] *adj. fml* чо́рны, цёмны, сабалі́ны; **sable raiment** жало́бнае адзе́нне

**sabot** [ˈsæbəʊ] *n.* **1.** драўля́ны чараві́к; са́ба **2.** *pl.* **sabots** жано́чыя ту́флі на то́ўстай падэ́шве

**sabotage**[1] [ˈsæbətɑːʒ] *n.* **1.** сабата́ж **2.** дыве́рсія; **an act of sabotage** дыверсі́йны акт

**sabotage**[2] [ˈsæbətɑːʒ] *v.* **1.** сабатава́ць, сабата́жнічаць **2.** арганізо́ўваць дыве́рсію, ве́сці падрыўну́ю рабо́ту; **sabotage smb.'s plans** зрыва́ць чые́-н. пла́ны

**saboteur** [ˌsæbəˈtɜː] *n.* **1.** сабата́жнік; сабата́жніца; шко́днік; шко́дніца **2.** дыверса́нт; дыверса́нтка

**sabra** [ˈsɑːbrə] *n.* са́бра; яўрэ́й, які́ нарадзі́ўся ў Ізра́ілі (*не імігрант*)

**sabre** [ˈseɪbə] *n.* **1.** ша́бля, ша́шка; **a sabre blade** кліно́к ша́шкі **2.** пала́ш; **rattle the sabre** бра́згаць збро́яй

**sabre-rattling** [ˈseɪbəˌrætlɪŋ] *n.* прапага́нда вайны́, распа́льванне ва́еннай істэры́і; **sabre-rattling tactics** та́ктыка распа́львання вайны́

**sac** [sæk] *n.* **1.** *biol.* мяшо́чак, мяшэ́чак; су́мка (*у раслін і жывёл*) **2.** *med.* кіста́

**saccharin** [ˈsækərɪn] *n.* сахары́н

**saccharine** [ˈsækəriːn] *adj.* цукры́сты; пры́тарны; **a saccharine disease** цукро́вая хваро́ба, дыябе́т; **a saccharine smile** саладжа́вая ўсме́шка; **saccharine poetry** сентыментальная паэ́зія

**sachet** [ˈsæʃeɪ] *n.* **1.** *BrE* паке́цік; мяшэ́чак; **a sachet of sugar** паке́цік цу́кру **2.** сашэ́, сухі́я духі́

**sack**[1] [sæk] *n.* **1.** мех, мяшо́к; куль; **a sack of candy** *AmE* паке́цік ледзянцо́ў **2.** *таксама* **sack dress** каро́ткая прасто́рная суке́нка; сак ♦ **hit the sack** *infml* завалі́цца спаць

**sack**[2] [sæk] *n.* *infml* **: the sack** звальне́нне з пра́цы; **get the sack** быць зво́леным з пра́цы; **give the sack** звальня́ць з пра́цы

**sack**[3] [sæk] *v.* *infml* звальня́ць з пра́цы

**sackcloth** [ˈsækklɒθ] *n.* мешкаві́на; радно́, дзяру́га; палатно́ ♦ **in sackcloth and ashes** по́ўны раска́яння і пако́рлівасці

**sackful** [ˈsækfʊl] *n.* по́ўны мех, по́ўны куль (*чаго-н.*); **sackfuls of money** ку́ча гро́шай, незлічо́нае бага́цце

**sack race** [ˈsækreɪs] *n.* бег у мяшка́х (*від спаборніцтва*)

**sacral** [ˈseɪkrəl] *adj.* *fml* сакра́льны, абра́давы, рытуа́льны

**sacrament** [ˈsækrəmənt] *n.* *eccl.* прыча́сце, прычашчэ́нне; та́інства; **the Blessed/Holy Sacrament** Свято́е Прыча́сце; **take the sacrament** прычашча́цца; **the sacrament of confession** та́інства спо́ведзі

**sacramental** [ˌsækrəˈmentl] *adj.* свяшчэ́нны; сакрамента́льны; запаве́тны; **a sacramental oath** свяшчэ́нная кля́тва; **pronounce the sacramental words** вымаўля́ць сакрамента́льныя сло́вы

**sacred** [ˈseɪkrɪd] *adj.* **1.** святы́, свяшчэ́нны; духо́ўны; рэлігі́йны; **a sacred duty** святы́ абавя́зак; **sacred music** духо́ўная му́зыка; **the sacred book** Бі́блія; **a sacred object** святы́ня; **a sacred procession** хро́сны ход **2.** непару́шны; **a sacred promise** непару́шнае абяца́нне **3.** *fml* **(to)** прысве́чаны; **sacred to the memory of my brother** (*звыч. надмагільны надпіс*) све́тлай па́мяці майго́ бра́та ♦ **a sacred cow** *derog.* чалаве́к, яко́га не́льга крытыкава́ць

**sacredly** [ˈseɪkrɪdli] *adv.* свя́та, непару́шна; **preserve an oath sacredly** свя́та выко́нваць кля́тву

**sacrifice**[1] [ˈsækrɪfaɪs] *n.* **1.** ахвярапрынашэ́нне; **the fire of sacrifice** ахвя́рны (в)агме́нь; **make a sacrifice of fruit** ахвярава́ць плады́ **2.** ахвя́ра; **a sacrifice willingly offered** добраахво́тная ахвя́ра; **at the sacrifice of smth.** ахвяру́ючы чым-н.; **make a sacrifice** ахвярава́ць

**sacrifice**[2] [ˈsækrɪfaɪs] *v.* **1.** пры́но́сіць у дар; **sacrifice to the gods** прыно́сіць у дар бага́м **2.** ахвярава́ць; ахвяро́ўваць; **sacrifice oneself/one's life** ахвярава́ць сабо́ю/сваі́м жыццём

**sacrificial** [ˌsækrɪˈfɪʃl] *adj.* ахвя́рны; **a sacrificial lamb** ахвя́рны а́гнец; **a sacrificial offering** ахвярапрынашэ́нне

**sacrilege** [ˈsækrəlɪdʒ] *n.* святата́цтва; блюзне́рства, кашчу́нства; **commit sacrilege** абрабава́ць храм

**sacristan** [ˈsækrɪstən] *n.* *eccl.* ры́знічы

**sacristy** [ˈsækrɪsti] *n.* *eccl.* ры́зніца; сакры́стыя

**sacrosanct** [ˈsækrəʊsæŋkt] *adj.* свяшчэ́нны, недатыка́льны; **a sacrosanct place** святы́ня

**sad** [sæd] *adj.* **1.** су́мны, сму́тны, засму́чаны; журбо́тны, марко́тны; **sad misfortune** стра́шнае го́ра; **be sad at heart/with a sad heart** сумава́ць, засмуча́цца; *I feel sad.* Мне сумна. **2.** жу́дасны, жахлі́вы, страшэ́нны; **sad to say…** на жаль…; **sadder and wiser** наву́чаны го́ркім во́пытам; *That's a sad excuse.* Гэта кепскае апраўданне.

**sadden** [ˈsædn] *v.* *fml* засмуча́ць; засмуча́цца; смуткава́ць, марко́ціцца; **a heart saddened with disappointment** сэ́рца, зму́чанае расчарава́ннямі

**saddle**[1] [ˈsædl] *n.* **1.** сядло́; **a flat saddle** спарты́ўнае сядло́; **rise in the saddle** е́хаць англі́йскай ры́ссю; **leap into the saddle** ускокваць на каня́; **jump out of the saddle** саско́кваць з каня́; **2.** седлаві́на (*у горным хрыбце*) ♦ **be in the saddle** кірава́ць; верхаво́дзіць

**saddle**[2] [ˈsædl] *v.* сядла́ць, сяда́ць у сядло́; **saddle smb. with smth.** узва́льваць што-н. на каго́-н., абцяжа́рваць каго́-н. чым-н.

**saddle up** [ˌsædlˈʌp] *phr.v.* сядла́ць, сяда́ць у сядло́; *Saddle up!* Па конях!
**saddler** [ˈsædlə] *n.* ры́мар
**sadism** [ˈseɪdɪzəm] *n.* сады́зм
**sadist** [ˈseɪdɪst] *n.* сады́ст; сады́стка
**sadly** [ˈsædli] *adv.* **1.** су́мна, засму́чана, журбо́тна **2.** ва́рта жа́лю; на жаль; *You are sadly mistaken.* Вы, на жаль, памыляецеся; *I need it sadly.* Мне гэта вельмі патрэбна.
**sadness** [ˈsædnəs] *n.* сму́так, сум; марко́та, туга́, журба́; **real sadness** непрытво́рная журба́
**sadomasochism** [ˌseɪdəʊˈmæsəkɪzəm] *n.* садамазахі́зм
**s.a.e** [ˌeseɪˈiː] *BrE* (*скар. ад* **self-addressed envelope**) канве́рт, адрасава́ны само́му сабе́
**safari** [səˈfɑːri] *n.* сафа́ры; паляўні́чая экспеды́цыя (*звычайна ў Афрыцы*); **on safari** на палява́нні
**safari park** [səˈfɑːriˌpɑːk] *n.* заапа́рк «сафа́ры»
**safari suit** [səˈfɑːriˌsjuːt] *n.* касцю́м «сафа́ры» (*доўгі жакет з кароткімі рукавамі і штаны або шорты*)
**safe¹** [seɪf] *n.* сейф; **break/force the safe** узлама́ць сейф
**safe²** [seɪf] *adj.* **1.** бяспе́чны; **keep smth. safe** захо́ўваць што-н. у бяспе́чным ме́сцы; *He's now safe from danger.* Яму цяпер не пагражае небяспека. **2.** цэ́лы, непашко́джаны **3.** ве́рны, надзе́йны ♦ **in safe hands** у надзе́йных рука́х; **on the safe side** на ўся́кі вы́падак; для бо́льшай надзе́йнасці; **play (it) safe** асцяро́жна пазбяга́ць ры́зыкі; **safe and sound** жывы́-здаро́вы; **we are safe as houses** *BrE* мы тут як за мурава́най сцяно́й
**safe-breaker** [ˈseɪfˌbreɪkə] *n. BrE* узло́мшчык се́йфаў
**safe-cracker** [ˈseɪfˌkrækə] *n. AmE* = **safe-breaker**
**safe deposit box** [ˌseɪfdɪˈpɒzɪtˌbɒks] *n.* сейф, схо́вішча, скры́нка для перахо́ўвання кашто́ўнасцей у ба́нку
**safeguard¹** [ˈseɪfgɑːd] *n.* **(against)** гара́нтыя, ахо́ва, засцяро́га (ад); **a safeguard against disease** гара́нтыя су́праць хваро́бы
**safeguard²** [ˈseɪfgɑːd] *v. fml* гарантава́ць (*што-н.*); ахо́ўваць; **safeguard the traditions jealously** руплі́ва захо́ўваць трады́цыі
**safely** [ˈseɪfli] *adv.* надзе́йна, паспяхо́ва; *Put it away safely.* Схавай гэта ў надзейным месцы; *One can safely say.* Можна з упэўненасцю сказаць.
**safe seat** [ˌseɪfˈsiːt] *n. BrE* «надзе́йная вы́барчая акру́га», забяспе́чанае ме́сца для кандыда́та яко́й-н. па́ртыі (*у выбарчым органе*)
**safety** [ˈseɪfti] *n.* **1.** бяспе́ка, адсу́тнасць ры́зыкі; **road safety** даро́жная бяспе́ка; **public safety** грама́дская бяспе́ка **2.** захава́насць, непашко́джанасць; **travel in safety** до́бра падаро́жнічаць ♦ **play for safety** рабі́ць што-н. не рызыку́ючы; **(there is) safety in numbers** калекты́ўная адка́знасць менш небяспе́чная, чым індывідуа́льная
**safety belt** [ˈseɪftiˌbelt] *n.* **1.** прывязны́ раме́нь/рэ́мень **2.** выратава́льны по́яс
**safety catch** [ˈseɪftiˌkætʃ] *n. tech.* засцерага́льнік
**safety glass** [ˈseɪftiˌglɑːs] *n.* небі́ткое шкло
**safety island** [ˈseɪftiˌaɪlənd] *n.* астраво́к бяспе́кі (*на дарозе*)
**safety lamp** [ˈseɪftiˌlæmp] *n. tech.* бяспе́чная ля́мпа, руднiко́вая ля́мпа
**safety lock** [ˈseɪftiˌlɒk] *n.* замо́к з сакрэ́там
**safety match** [ˈseɪftiˌmætʃ] *n.* (бяспе́чная) запа́лка
**safety net** [ˈseɪftiˌnet] **1.** *n.* се́тка бяспе́кі (*у цырку*) **2.** страхо́ўка, гара́нтыя; *If I lose my job, I'll get no safety net.* Калі я страчу працу, у мяне не будзе страхоўкі.
**safety pin** [ˈseɪftiˌpɪn] *n.* шпі́лька
**safety razor** [ˈseɪftiˌreɪzə] *n.* бяспе́чная бры́тва
**safety valve** [ˈseɪftiˌvælv] *n.* засцерага́льны кла́пан; **a psychological safety valve** псіхалагі́чная разра́дка
**saffron** [ˈsæfrən] *n.* **1.** *bot.* шафра́н **2.** *bot.* во́сеньскі кро́кус **3.** цёмна-ара́нжавы ко́лер; ко́лер шафра́ну
**sag¹** [sæg] *n.* прагі́б, правіса́нне; асяда́нне
**sag²** [sæg] *v.* **1.** прагіна́цца, прагіба́цца, правіса́ць; *His shoulders sagged.* Ён згорбіўся. **2.** звіса́ць, абвіса́ць **3.** слабе́ць; *My spirits sagged.* У мяне ўпаў настрой.
**saga** [ˈsɑːgə] *n.* **1.** са́га; **Icelandic sagas** ісла́ндскія са́гі **2.** пада́нне**,** сказа́нне пра по́дзвігі геро́яў; **a western saga** захапля́льны ве́стэрн
**sagacious** [səˈgeɪʃəs] *adj. fml* прані́клівы, дальнаба́чны, празо́рлівы; ке́млівы; **sagacious advice** разу́мная пара́да
**sagacity** [səˈgæsəti] *n. fml* дальнаба́чнасць, празо́рлівасць; ке́млівасць; **the sagacity of age** му́драсць даро́слых людзе́й
**sage¹** [seɪdʒ] *n. fml* мудрэ́ц; **the seven sages of Greece** сем мудрацо́ў старажы́тнай Грэ́цыі; **the Eastern Sages** *bibl.* вешчуны́
**sage²** [seɪdʒ] *n. bot.* шалфе́й; **sage tea** насто́йка шалфе́ю
**sagebrush** [ˈseɪdʒˌbrʌʃ] *n. bot.* палы́н; **the Sagebrush State** Палыно́вы штат (*жартоўная назва штата Невада*); **Sagebrush States** шта́ты раёна Скалі́стых гор

**Sagittarius** [ˌsædʒɪˈteəriəs] *n.* **1.** *astron.* Стралéц (*сузор'е*) **2.** *astrol.* Стралéц (*знак задыяка; чалавек, які нарадзіўся пад гэтым знакам*)
**sago** [ˈseɪgəʊ] *n.* (*pl.* **-os**) сáга (*крупы*)
**said** [sed] *past, p.p.* → **say**
**sail**[1] [seɪl] *n.* **1.** вéтразь, пáрус; **hoist/lower the sails** падымáць/спускáць вéтразі; **in full sail** на ўсíх парусáх, пóўным хóдам; **under sail** пад раскры́тымі парусáмі *It's time to hoist sail.* Пара адыходзіць. **2.** плáванне; **go for a sail** адпраўля́цца плáваць на пáруснай лóдцы **3.** крылó ветракá ♦ **set sail** *fml* адпраўля́цца ў плáванне
**sail**[2] [seɪl] *v.* **1.** плы́сці пад вéтразямі; **sail round the world** рабíць кругасвéтнае падарóжжа **2.** кíравáць (*яхтаю, лодкаю і да т.п.*) **3.** пускáць карáблікі **4.** адплывáць, адыхóдзіць (*пра судна*) **5.** павóльна рýхацца; *She sailed into the room.* Яна прайшла ў пакой як пава. ♦ **sail against the wind** плы́сці сýпраць цячэ́ння; **sail close to the wind** мóцна рызыкавáць, хадзíць па крáі прóрвы
**sailboat** [ˈseɪlˌbəʊt] *n. AmE* = **sailing boat**
**sailing** [ˈseɪlɪŋ] *n.* **1.** плáванне, марап лáванне **2.** навігáцыя
**sailing boat** [ˈseɪlɪŋˌbəʊt] *n.* пáрусная лóдка, пáруснік
**sailor** [ˈseɪlə] *n.* марáк, матрóс ♦ **be a good/bad sailor** дóбра/кéпска вытры́млівацъ гайдáнку на мóры
**sailor hat** [ˈseɪləˌhæt] *n.* саламя́ны капялю́ш з вýзкімі палямі (*дзіцячы, жаночы*)
**sailor cap** [ˈseɪləˌkæp] *n.* матрóска
**saint**[1] [seɪnt] *n.* **1.** *relig.* святы́; святáя; прапавéднік; анёл **2.** вéльмі дóбры цярплíвы чалавéк; *I'm no saint.* Я зусім не святы. ♦ **be with the Saints** ≅ пайсцí на той свет, памéрці
**saint**[2] [seɪnt] *adj.* святы́, святáя
**saint**[3] [seɪnt] *v.* кананізавáць; далучáць да лíку святы́х
**sainted** [ˈseɪntɪd] *adj.* **1.** *relig.* кананізавáны **2.** святы́, свяшчэ́нны; **a sainted place** свяшчэ́ннае мéсца ♦ **my sainted aunt!** Бóжухна!
**sainthood** [ˈseɪnthʊd] *n.* **1.** святасць **2.** *relig.* сонм святы́х
**Saint-John's-wort** [səntˌdʒɒnzˈwɜ:t] *n. bot.* святая́ннік, зверабóй
**saintly** [ˈseɪntli] *adj.* святы́, прáведны, бязгрэ́шны; **saintly patience** анёльскае цярпéнне
**saint's day** [ˈseɪntsdeɪ] дзень (*якога-н.*) святóга
**sake** [seɪk] *n.* **:** ♦ **for God's/goodness/Heaven's sake** на лáску бóжую; бóгам прашý; напрамíлы бог; **for the sake of smb./smth.**; **for smb.'s/smth.'s sake** дзéля кагó-н./чагó-н.; **for conscience' sake** для ўлáснага заспакаéння, для ачы́сткі сумлéння
**salaam** [səˈlɑ:m] *n., interj.* **1.** салáм, саля́м (*усходняе прывітанне*) **2.** паклóн; **with profound salaams** з глыбóкімі паклóнамі
**salacious** [səˈleɪʃəs] *adj. fml* непрыстóйны; распýсны, юрлíвы; **salacious books** непрыстóйныя кнíгі
**salacity** [səˈlæsəti] *n. fml* непрыстóйнасць; распýснасць
**salad** [ˈsæləd] *n.* салáта; **fruit salad** салáта з садавíны; **Russian salad** вінегрэ́т ♦ **one's salad days** *dated* парá зялёнага юнáцтва
**salad cream** [ˈsælədˌkri:m] *n. BrE* сóус ты́пу маянэ́зу
**salad dressing** [ˈsælədˌdresɪŋ] *n.* запрáўка для салáты
**salad oil** [ˈsælədˌɔɪl] *n.* алéй
**salamander** [ˈsæləmændə] *n.* **1.** *zool.* саламáндра **2.** *myth.* саламáндра **3.** амáтар сóнца і гарачынí
**salami** [səˈlɑ:mi] *n.* саля́мі (*вэнджаная кілбаса*)
**salaried** [ˈsælərid] *adj.* **: a salaried post** штáтная пасáда; **salaried teachers** настáўнікі на цвёрдым аклáдзе
**salary** [ˈsæləri] *n.* аклáд, заробóтная плáта; **be paid a fixed salary** быць на цвёрдым аклáдзе; **increase/raise salaries** павялíчваць/паднімáць аклáды; **cut/slash salary** паніжáць/урэ́зваць аклáд
**sale** [seɪl] *n.* **1.** прóдаж, збыт; **"For Sale"** «прадаéцца» (*аб'ява*); **sale on credit** прóдаж у крэды́т; *These goods have a good sale.* Гэтыя тавары добра ідуць у продаж. **2.** распрадáжа; распрóдаж ♦ **be on sale** прадавáцца па знíжаных цэ́нах; **for sale** на прóдаж; **put up for sale** прадавáць з малаткá
**saleable** [ˈseɪləbl] *adj.* хóдкі (*тавар*); *Such houses are highly saleable.* На такія дамы вялікі попыт.
**saleroom** [ˈseɪlru:m] *n. BrE* аўкцыённая зáла
**salescheck** [ˈseɪlzˌtʃek] *n. BrE* тавáрны, кáсавы чэк
**sales clerk** [ˈseɪlzˌklɑ:k] *n. AmE* = **shopassistant**
**sales department** [ˈseɪlzdɪˌpɑ:tmənt] *n.* аддзéл збы́ту
**salesgirl** [ˈseɪlzgɜ:l] *n.* прадаўшчы́ца
**salesman** [ˈseɪlzmən] *n.* (*pl.* **-men**) прадавéц
**salesmanship** [ˈseɪlzmənʃɪp] *n.* **1.** прафéсія прадаўцá **2.** умéнне прадавáць, гандлявáць; *His salesmanship is bad.* Ён благі камерсант.
**salesroom** [ˈseɪlzru:m] *n. AmE* = **saleroom**
**salesslip** [ˈseɪlzslɪp] *n. AmE* = **salescheck**

**salestalk** [ˈseɪlztɔːk] *n.* расхвáльванне тавáру (*прадаўцом*)
**sales tax** [ˈseɪlzˌtæks] *n.* падáтак з абарóту
**saleswoman** [ˈseɪlzˌwʊmən] *n.* (*pl.* -**women**) прадаўшчы́ца
**salient**[1] [ˈseɪliənt] *n.* вýгал, вы́ступ; **push a salient** убівáць клін у абарóну праці́ўніка
**salient**[2] [ˈseɪliənt] *adj.* **1.** кі́дкі, характэ́рны; **the salient points in his speech** найярчэ́йшыя мéсцы ў яго прамóве **2.** які́ выступáе (*пра вугал прадмета*)
**saline**[1] [ˈseɪlaɪn] *n.* **1.** *chem.* соль (*калію, натрыю і да т.п.*) **2.** саланчáк
**saline**[2] [ˈseɪlaɪn] *adj. chem.* **1.** салявы́; **saline solution** салявы́ раствóр **2.** саляны́; **a saline spring** салянáя крыні́ца
**saliva** [səˈlaɪvə] *n.* слі́на; **run saliva** пускáць слі́ну
**salivary** [səˈlaɪvəri] *adj. med.* слі́нны; **salivary glands** слі́нныя залóзы
**salivate** [ˈsælɪveɪt] *v. physiol.* выклікáць слінацячэ́нне; выдзялáць слі́ну
**salivation** [ˌsælɪˈveɪʃn] *n. physiol.* слінацячэ́нне, слінавыдзялéнне
**sallow**[1] [ˈsæləʊ] *n. bot.* казі́ная вярбá, лазá
**sallow**[2] [ˈsæləʊ] *adj.* жаўтавáты; хвараві́ты (*колер твару*)
**sallow thorn** [ˌsæləʊˈθɔːn] *n. bot.* крушы́на
**sally**[1] [ˈsæli] *n.* **1.** дóсціп, саркасты́чная заўвáга; кпі́ны; эпігрáма **2.** вы́лазка, атáка; **make a sally** рабі́ць вы́лазку; ісці́ на шпáцыр
**sally**[2] [ˈsæli] *v.* рабі́ць вы́лазку, выпраўлáцца куды́-н.; **sally forth into the world** пускáцца ў (бéлы) свет; **sally into the fairyland of poetry** акунáцца ў чарóўны свет паэ́зіі
**salmon** [ˈsæmən] (*pl.* **salmon**) *n.* **1.** *zool.* ласóсь; **pink salmon** сёмга; **humpback salmon** гарбýша; **calico/chun salmon** кéта **2.** жаўтавáта-ружóвы кóлер
**salmonella** [ˌsælməˈnelə] *n. med.* сальманéла (*бактэрыя*)
**salmon pink** [ˌsæmənˈpɪŋk] *n.* арáнжава-ружóвы кóлер, кóлер сёмгі
**salon** [ˈsælɒn] *n.* салóн; гасцёўня; **a beauty salon** касметы́чны салóн; **a literary salon** літаратýрны салóн
**saloon** [səˈluːn] *n.* **1.** *таксама* **saloon-car** *BrE* седáн (*тып аўтамабіля з закрытым кузавам*) **2.** *таксама* **saloon-bar** *BrE* бар (*у рэстаране або гатэлі*) **3.** салóн (*на параходзе*)
**salt**[1] [sɔːlt] *n.* **1.** соль; **rock/sea/table salt** камéнная/марскáя/сталóвая соль; **Epsom salts** англі́йская соль **2.** іскры́нка, пікáнтнасць ♦ **rub salts into the wound/smb.'s wounds** сы́паць соль на рáну/рáны; **the salt of the earth** соль зямлі́ (*пра лепшых людзей грамадства*); **take smth. with a grain of salt** стáвіцца да чагó-н. скепты́чна, недавéрліва
**salt**[2] [sɔːlt] *adj.* салёны; саляны́; засóлены; **a salt spring** салянáя крыні́ца; **salt pork** салані́на, салёная свіні́на; **salt tears** гóркія слёзы; **salt water** марскáя вадá
**salt**[3] [sɔːlt] *v.* салі́ць; засóльваць; **salted beef** засóленая я́лавічына
**salt away** [ˌsɔːltəˈweɪ] *phr.v.* збірáць грóшы; склáдваць грóшы ў скарбóнку
**salt-and-pepper** [ˌsɔːltənˈpepə] *adj.* з мóцнай сівізнóю (*пра валасы*)
**salt cellar** [ˈsɔːltˌselə] *n. BrE* сальні́ца
**saltmine** [ˈsɔːltmaɪn] *n.* **1.** салянáя капáльня, салянáя шáхта **2.** *pl.* **saltmines** кáтаржныя рабóты
**salt-peter** [ˌsɔːltˈpiːtə] *AmE* = **saltpetre**
**saltpetre** [ˌsɔːltˈpiːtə] *n. chem.* салéтра
**salt shaker** [ˈsɔːltˌʃeɪkə] *AmE* = **salt cellar**
**saltwater** [ˈsɔːltˌwɔːtə] *adj.* марскі́; які́ жывé ў салёнай вадзé; **salt-water fish** марскáя ры́ба
**salty** [ˈsɔːlti] *adj.* **1.** салёны; **too salty** перасóлены **2.** вéльмі рэ́зкі, непрыстóйны; **salty humour** «салёны» гýмар
**salubrious** [səˈluːbriəs] *adj. fml* здарóвы, кары́сны, гаю́чы; **a salubrious climate** здарóвы клі́мат; **salubrious air** гаю́чае павéтра
**salutary** [ˈsæljətri] *adj.* дабратвóрны, гаю́чы, кары́сны; **salutary advice** кары́сная парáда; **a salutary effect** дабратвóрны ўплы́ў
**salutation** [ˌsæljuˈteɪʃn] *n. fml* **1.** прывітáнне; **raise one's hat in salutation** узнáць капялю́ш у знак прывітáння **2.** слóвы прывітáння ў лісцé
**salute**[1] [səˈluːt] *n.* **1.** салю́т; **give a salute** *mil.* аддавáць чэсць **2.** прывітáнне; **a friendly salute** дружалю́бнае прывітáнне; **in salute** у гóнар; **take the salute** прымáць парáд
**salute**[2] [səˈluːt] *v.* **1.** вітáць, прывітáць; *I salute you!* Вітаю вас! **2.** *fml* сустракáць, прымáць (*каго-н.*); **salute smb. with cheers** сустракáць кагó-н. апладысмéнтамі
**salvage**[1] [ˈsælvɪdʒ] *n.* **1.** выратавáнне караблá, маёмасці (*ад пажару*); **a salvage agreement** пагаднéнне аб выратавáльнай дзéйнасці на мóры; **a salvage corps** выратавáльная пажáрная камáнда; **make salvage of a ship** вы́ратаваць карабéль **2.** выратавáнне ад гі́белі сýдна; **salvage money** узнагарóда за вы́ратаваную маёмасць **3.** лом, ламáчча, адкі́ды вытвóрчасці, скрап; **collect old newspapers for salvage** збірáць стары́я газéты на макулатýру
**salvage**[2] [ˈsælvɪdʒ] *v.* **1.** ратавáць (*судна ад пажару*) **2.** выратóўваць; выручáць; **salvage a mar-**

**riage** захóўваць сям'ю́; **salvage a patient** ратава́ць хво́рага

**salvation** [sælˈveɪʃn] *n.* **1.** *relig.* выратава́нне, ратава́нне, збаве́нне; **find salvation** вы́ратаваць сваю́ душу́ **2.** рату́нак, парату́нак; **seek salvation in smth.** шука́ць парату́нку ў чым-н.; *Work is my salvation.* У працы мой ратунак.

**Salvation Army** [sælˌveɪʃnˈɑːmi] *n. relig.* **the Salvation Army** Армія выратава́ння/збаўле́ння

**salve**[1] [sælv] *n.* гаючая мазь; крэм; **lip salve** губна́я пама́да; **a salve dressing** павя́зка з ма́ззю

**salve**[2] [sælv] *v.* ма́заць ма́ззю; заспако́йваць, змякча́ць (*боль*); **salve wounds** кла́сці бальза́м на ра́ны, заго́йваць ра́ны; **salve one's conscience** *fml* рабі́ць што-н., каб заспако́іць сумле́нне

**salver** [ˈsælvə] *n.* падно́с (*посуд*)

**salvo** [ˈsælvəʊ] *n.* (*pl.* **salvos** *or* **salvoes**) **1.** залп, салю́т; **a salvo of twenty guns** залп з дваццаці́ гарма́т **2.** вы́бух (*крыку, смеху і да т.п.*); **a salvo of applause** вы́бух апладысме́нтаў

**Samaritan** [səˈmærɪtən] *n. hist.* самарыця́нін; самарыця́нка; **the Samaritans** самарыця́не ♦ **a good Samaritan** добрасардэ́чны чалаве́к

**samba** [ˈsæmbə] *n.* са́мба (*бразільскі танец*)

**same** [seɪm] *adj., pron.* **1.** такі́ са́мы, така́я са́мая, тако́е са́мае; той са́мы, та́я са́мая, то́е са́мае; адно́лькавы; **on the very same day** у той жа са́мы дзень; **much the same** зусі́м адно́лькавы; *She's the same age as me.* Мы з ёю аднагодкі. **2.** адно́ і то́е ж; **at the same time** у той са́мы час; **be of the same mind (about smth.)** мець адно́лькавы по́гляд (*на што-н.*); *We must say the same.* Мы павінны гаварыць адно і тое ж; *It's all the same for him.* Яму ўсё роўна. ♦ **be in the same boat** плыць у адно́й ло́дцы, знахо́дзіцца ў адно́лькавых абста́вінах; **just the same** такі́м жа чы́нам; **(the) same to you** (*адказ на віншаванне*) таго́ ж і вам!; *Happy New Year! – The same to you.* З Новым годам! – Вас таксама.

**sameness** [ˈseɪmnəs] *n.* **1.** падабе́нства, адно́лькавасць, то́еснасць; **illusive sameness** падма́нлівае падабе́нства; **sameness of views** адзі́нства по́глядаў; **sameness and otherness** *ling.* то́еснасць і адро́зненне **2.** аднаста́йнасць; манато́ннасць; *There is some tedious sameness of winter days.* Усе дні зімою аднолькава нудныя.

**samey** [ˈseɪmi] *adj. BrE, infml* аднаста́йны, адно́лькавы; *The food we get here is terribly samey.* Яда тут кожны дзень адна і тая.

**samovar** [ˈsæməvɑː] *n.* самава́р

**sample**[1] [ˈsɑːmpl] *n.* **1.** узо́р; **a book of samples** альбо́м узо́раў **2.** про́ба; **take a blood sample** узя́ць кроў для ана́лізу

**sample**[2] [ˈsɑːmpl] *v.* **1.** браць про́бу **2.** выпрабо́ўваць; спрабава́ць; *We sampled the delights of Chinese food.* Мы паспрабавалі цуды кітайскай кухні.

**sampler** [ˈsɑːmplə] *n.* узо́р, шабло́н

**samurai** [ˈsæmuraɪ] *n.* (*pl.* **samurai**) самура́й

**sanatorium** [ˌsænəˈtɔːriəm] *n.* (*pl.* **sanatoriums** *or* **sanatoria**) санато́рый

**sanctify** [ˈsæŋktɪfaɪ] *v.* **1.** *fml* ачышча́ць ад грахо́ў; асвяшча́ць, рабі́ць свяшчэ́нным **2.** апра́ўдваць; *The end sanctifies the means.* Мэта апраўдвае сродкі.

**sanctimonious** [ˌsæŋktɪˈməʊniəs] *adj. derog.* крывадушны, ха́нжаскі; **a sanctimonious person** ханжа́

**sanction**[1] [ˈsæŋkʃn] *n.* **1.** афіцы́йная зго́да, дазво́л, падтры́мка, адабрэ́нне; **tacit sanction** маўклі́вая зго́да; **give/grant sanction to smth.** даць зго́ду на што-н. **2.** *fml* ме́ра, са́нкцыя; **apply sanctions against smth.** прымяня́ць са́нкцыі су́праць чаго́-н.; **punitive/vindicatory sanctions** ка́рныя са́нкцыі; **the last sanctions of the law** вышэ́йшая ме́ра пакара́ння

**sanction**[2] [ˈsæŋkʃn] *v. fml* **1.** санкцыянава́ць, рабі́ць правамо́цным, ратыфікава́ць, зацвярджа́ць **2.** дазваля́ць, ухваля́ць; *I can't sanction your methods.* Я не ўхваляю твае метады.

**sanctity** [ˈsæŋktəti] *n.* **(of)** свя́тасць; бязгрэ́шнасць; свяшчэ́ннасць; **angelic sanctity** бо́скасць, анёльская чысціня́; **the sanctity of an oath** свяшчэ́ннасць кля́твы

**sanctuary** [ˈsæŋktʃuəri] *n.* **1.** запаве́днік; **a bird sanctuary** птушы́ны запаве́днік; **a sanctuary forest** лес-запаве́днік **2.** прыту́лак, прыста́нішча; **seek sanctuary** шука́ць прыту́лку; **a sanctuary for study** пако́й, дзе ніхто́ не замiна́е вучы́цца; **find sanctuary in sleep** знайсці́ супако́й у сне; **the sanctuary of one's heart** тайнікі́ душы́ **3.** храм, святы́ня, свяці́лішча; алта́р; **the sanctuary of sciences** храм наву́кі

**sanctum** [ˈsæŋktəm] *n.* **1.** *relig.* свяці́лішча; ра́ка **2.** *fml* рабо́чы кабіне́т вучо́нага; **3. : a lady's sanctum** буду́ар

**sanctum sanctorum** [ˌsæŋktəmsæŋkˈtɔːrəm] *n. relig.* свята́я святы́х; запаве́тнае ме́сца

**sand**[1] [sænd] *n.* **1.** пясо́к; **a grain of sand** пясчы́нка **2.** *pl.* **sands** пясча́ны пляж **3.** *pl.* **sands** пусты́ня, пяскі́; *The sands are running out.* Час бяжыць. ♦ **plough the sand(s)** займа́цца бескары́снай спра́вай

**sand**[2] [sænd] *v.* **1.** пасыпа́ць пяско́м **2.** чы́сціць пяско́м, шліфава́ць; *The floor has been sanded smooth.* Падлогу адшліфавалі.

**sandal** [ˈsændl] *n.* санда́ля; басано́жка; **dancing sandals** адкры́тыя ба́льныя ту́флі
**sandalwood** [ˈsændlwʊd] *n. bot.* санда́л, санда́лавае дрэ́ва
**sandbag** [ˈsændbæg] *n.* мех з пяско́м; бала́ставы мех
**sandbank** [ˈsændbæŋk] *n.* пясча́ны бе́раг; во́дмель, пясча́ны нано́с
**sandbar** [ˈsændbɑː] *n.* нано́сная пясча́ная вы́спа, перака́т; во́дмель
**sandcastle** [ˈsændˌkɑːsl] *n.* пясча́ны за́мак; **play sandcastles** будава́ць за́мкі з пяску́
**sandfly** [ˈsændflaɪ] *n. zool.* маскі́т
**sandman** [ˈsændmən] *n.* (*pl.* **-men**) **: the sandman** ка́зачны чалаве́к (*які сыпле дзецям у вочы пясок*); *Go to bed! The sandman's coming!* Пара спаць! Ідзе казачнік!
**sandpaper** [ˈsændˌpeɪpə] *n.* нажда́к, нажда́чная папе́ра
**sandpiper** [ˈsændˌpaɪpə] *n. zool.* кулі́к (*птушка*)
**sandpit** [ˈsændpɪt] *n.* **1.** *BrE* пясо́чніца (*для дзяцей*) **2.** *sport* я́ма для скачко́ў
**sandshoes** [ˈsændʃuːz] *n. pl.* (закры́тыя) пля́жныя ту́флі
**sandstone** [ˈsændstəʊn] *n. geol.* пясча́нік
**sandstorm** [ˈsændstɔːm] *n.* пясча́ная бу́ра, саму́м
**sandwich[1]** [ˈsænwɪdʒ] *n.* са́ндвіч, бутэрбро́д; **a ham sandwich** бутэрбро́д з вяндлі́най; **a sandwich box** скры́нка для бутэрбро́даў; **a hero sandwich** «сняда́нак геро́я» (*гарачая страва са смажанага хлеба з мясам, сырам, памідорамі і да т.п.*); **a three-decker sandwich** *AmE* шматсло́йны бутэрбро́д з мя́сам, памідо́рамі, маянэ́зам і да т.п. ♦ **a sandwich of good and bad** ≅ уся́к быва́е – і до́бра, і ке́пска; **ride/sit sandwich** е́хаць або́ сядзе́ць заці́снутым памі́ж двума́ сусе́дзямі
**sandwich[2]** [ˈsænwɪdʒ] *v.* (**between**) устаўля́ць (памі́ж); уці́скваць; *I sandwiched myself between two men.* Я ўціснуўся ў аўтобус паміж двума мужчынамі.
**sandwich board** [ˈsænwɪdʒˌbɔːd] *n.* рэкла́мныя шчыты́ (*якія прымацоўваюць да чалавека-рэкламы спераду і ззаду*)
**sandwich coarse** [ˈsænwɪdʒˌkɔːs] *n. BrE* курс навуча́ння, дзе чаргу́ецца тэо́рыя і пра́ктыка; спалучэ́нне прафесі́йнай і агу́льнай адука́цыі
**sandwichman** [ˈsænwɪdʒmæn] *n.* (*pl.* **-men**) чалаве́к-рэкла́ма, жыва́я рэкла́ма
**sandy** [ˈsændi] *adj.* **1.** пясча́ны; **sandy soil** пясча́ная глеба; **sandy loam** суглі́нак **2.** жаўтава́ты, ры́жы; **sandy hair** рыжава́тыя валасы́
**sane** [seɪn] *adj.* **1.** пры сваі́м ро́зуме **2.** разва́жлівы, разу́мны; **a sane person** ураўнава́жаная асо́ба; **a sane policy** разу́мная палі́тыка
**sang** [sæŋ] *past* → **sing**
**sang-froid** [sɒŋˈfrwɑː] *n. франц.* спако́й, вы́трымка, стры́манасць; **lose one's sang-froid** збянтэ́жыцца
**sangria** [ˈsæŋgriə] *n.* са́нгрыя (*напой з чырвонага віна з фруктамі і вострымі прыправамі*)
**sanguinary** [ˈsæŋgwɪnəri] *adj.* **1.** *dated, fml* крыва́вы, кровапралі́тны; **a sanguinary battle** кровапралі́тная бі́тва **2.** лю́ты, крыважэ́рны; **a sanguinary tyrant** лю́ты тыра́н; **sanguinary laws** крыва́выя зако́ны
**sanguine** [ˈsæŋgwɪn] *adj. fml* сангві́нічны, жва́вы; жыццяра́дасны; **a sanguine person** сангві́нік; **be sanguine of success** цвёрда спадзява́цца на по́спех; **be/feel sanguine about the future** быць упэ́ўненым у бу́дучыні
**sanitarium** [ˌsænɪˈteəriəm] *AmE* = **sanatorium**
**sanitary** [ˈsænətri] *adj.* саніта́рны, гігіені́чны; **sanitary science** гігіе́на; **a sanitary inspection** санінспе́кцыя; **a sanitary napkin** *AmE* гігіені́чная сурвэ́тка; **sanitary wallpaper** гігіені́чныя шпале́ры (*якія мыюцца*)
**sanitary towel** [ˈsænətriˌtaʊəl] *n. BrE* гігіені́чная пракла́дка, гігіені́чная паду́шачка
**sanitation** [ˌsænɪˈteɪʃn] *n.* аздараўле́нне, сана́цыя; паляпшэ́нне саніта́рных умо́ў; **improve the sanitation of the town** паляпша́ць саніта́рны стан го́рада
**sanitize,** *BrE* **-ise** [ˈsænɪtaɪz] *v. fml* **1.** *derog.* надава́ць прысто́йнасць, рабі́ць больш прыма́льным; *They sanitized my report.* Яны падправілі мой даклад. **2.** паляпша́ць саніта́рныя ўмо́вы
**sanity** [ˈsænəti] *n.* **1.** здаро́вы ро́зум, душэ́ўная раўнава́га **2.** разва́жлівасць; **bring some sanity into a difficult situation** уне́сці здаро́вы сэнс у ця́жкую сітуа́цыю
**sank** [sæŋk] *past* → **sink[2]**
**Sanskrit** [ˈsænskrɪt] *n.* санскры́т
**Santa Claus** [ˌsæntəˈklɔːz] *n.* Са́нта Кла́ус, Дзед Маро́з
**sap[1]** [sæp] *n.* **1.** сок (*раслін*); жыві́ца **2.** жыццёвыя сі́лы, эне́ргія; **the sap of youth** сі́лы юна́цтва **3.** *infml* ду́рань, дуры́ла
**sap[2]** [sæp] *n. mil.* са́па, падры́ў, падко́п; **an underground sap** падзе́мная са́па
**sap[3]** [sæp] *v.* знясі́льваць, адбіра́ць сі́лы, эне́ргію; *This sapped her confidence*. Гэта падарвала яе ўпэўненасць у сабе.
**Sapir-Whorf hypothesis** [səˌpɪəˈwɔːfhaɪˌpɒθəsɪs] *n. ling.* гіпо́тэза Сэпі́ра – Уо́рфа
**sapling** [ˈsæplɪŋ] *n.* маладо́е дрэ́ва, дрэ́ўца
**sapper** [ˈsæpə] *n. BrE* сапёр-мінёр
**Sapphic** [ˈsæfɪk] *adj.* **1.** *poet.* сафі́чны; **Sapphic verse** сафі́чны верш **2.** *fml* лесбі́йскі

**sapphire** [ˈsæfaɪə] *n.* сапфíр; **the sapphire of the skies** сапфíрны блакíт нябёсаў
**sappy** [ˈsæpi] *adj.* сакавíты (*пра расліны*)
**sarcasm** [ˈsɑːkæzəm] *n.* сарка́зм; злáя ірóнія; кпíны; **bitter sarcasm** гóркая ірóнія
**sarcastic** [sɑːˈkæstɪk] *adj.* саркастычны; **deadly sarcastic** насмéшлівы, з'éдлівы; знішчáльны
**sarcophagus** [sɑːˈkɒfəgəs] *n.* (*pl.* **-gi**) саркафáг
**sardine** [ˌsɑːˈdiːn] *n.* сардзíна, сардзíнка ♦ **(packed/crammed) like sardines** *infml* (*набітыя*) як селядцы ў бóчцы
**sardonic** [sɑːˈdɒnɪk] *adj.* сарданíчны, зласлíвы; пагáрдлівы, зневажáльны; **a sardonic expression** з'éдлівы вы́раз твáру
**sari** [ˈsɑːri] *n.* сáры (*жаночае адзенне ў Індыі*)
**sarky** [ˈsɑːki] *adj. BrE, infml* саркастычны; *She's a sarky little madam.* Яна маленькая мадамзлосніца.
**sartorial** [sɑːˈtɔːriəl] *adj. fml* кравéцкі, краўцóўскі; **sartorial elegance** умéнне апранáцца; вытанчанасць у вóпратцы
**sash** [sæʃ] *n.* **1.** пóяс **2.** рáма (*акна*)
**sashay** [ˈsæʃeɪ] *n.* паéздка, вы́хад (*куды-н.*)
**sash window** [ˌsæʃˈwɪndəʊ] *n.* пад'ёмнае акнó
**Sassenach** [ˈsæsənæk] *n. Scot., hum.* англічáнін
**sassy** [ˈsæsi] *adj. infml* **1.** нахáбны, дзёрзкі, развя́зны **2.** бóйкі, жвáвы
**sat** [sæt] *past, p.p.* → **sit**
**Sat.** *пісьмовае скар. ад* **Saturday** субóта
**SAT** [sæt] (*скар. ад* **Standard Assessment Test** (*у ЗША*) **:** *I scored 1050 on SAT.* Я набраў 1050 балаў за тэст.
**Satan** [ˈseɪtn] *n.* сатанá; д'я́бал; шайтáн
**satanic** [səˈtænɪk] *adj.* **1.** сатанíнскі, д'я́бальскі; **satanic influence** уплы́ў самóга сатаны́; **His Satanic Majesty** *joc.* князь цéмры, сатанá; **satanic rites** чóрная імшá, пакланéнне сатанé **2.** *fml.* д'я́бальскі, жóрсткі, зласлíвы; **satanic energy** д'я́бальская энéргія
**satanism** [ˈseɪtənɪzəm] *n.* сатанíзм, культ сатаны́
**satanist** [ˈseɪtənɪst] *n.* сатанíст
**satchel** [ˈsætʃəl] *n.* сýмка (*для кніг*), рáнец
**sated** [ˈseɪtɪd] *adj. fml* **(with)** задавóлены, натóлены, нацéшаны; **be sated with food** аб'éсціся; **be sated with pleasure** нацéшыцца забáвамі
**satellite** [ˈsætəlaɪt] *n.* спадарóжнік; **an artificial satellite** штýчны спадарóжнік; **a satellite town** гóрад-спадарóжнік; **a satellite state** краíна-сатэлíт; **shoot up/launch a satellite** запусціць спадарóжнік
**satiate** [ˈseɪʃieɪt] *v. fml* насычáць, здавальня́ць; **be satiated with smth.** быць здавóленым чым-н.
**satin** [ˈsætɪn] *n.* атлáс; **a satin dress** атлáсная сукéнка; **satin stitch** гладзь (*вышыўка*)
**satire** [ˈsætaɪə] *n.* **1. (on)** саты́ра; **biting satire** вóстрая саты́ра; **a master of political satire** мáйстар палíты́чнай саты́ры **2.** сатыры́чны твор, саты́ра
**satiric(al)** [səˈtɪrɪk(l)] *adj.* сатыры́чны, насмéшлівы, з'éдлівы; **satirical writers** пісьмéннікісаты́рыкі; **a satirical person** насмéшнік
**satirist** [ˈsætərɪst] *n.* саты́рык
**satirize,** *BrE* **-ise** [ˈsætəraɪz] *v.* высмéйваць; *Politicians are often satirized on TV.* Палітыкаў часта высмейваюць на тэлебачанні.
**satisfaction** [ˌsætɪsˈfækʃn] *n.* **1.** задавальнéнне, задавóленасць; **a feeling of satisfaction** пачуццё задавальнéння; **get/obtain/derive satisfaction from smth.** атры́млíваць задавальнéнне ад чагó-н. **2.** здавальнéнне (*голаду, жадання*) **3.** вы́клік на дуэ́ль; **demand satisfaction** патрабавáць сатысфáкцыі ♦ **to the satsfaction of smb.** для чыйгó-н. задавальнéння
**satisfactory** [ˌsætɪsˈfæktəri] *adj.* здавальня́ючы; **a satisfactory explanation** здавальня́ючае, перакана́ўчае/перакана́льнае тлумачэ́нне; **bring negotiations to a satisfactory conclusion** удáла закóнчыць перамóвы; *The cooking is very satisfactory here.* Тут вельмі добра гатуюць.
**satisfied** [ˈsætɪsfaɪd] *adj.* задавóлены; **feel satisfied** адчувáць задавальнéнне
**satisfy** [ˈsætɪsfaɪ] *v.* **1.** здавальня́ць, задавальня́ць, наталя́ць; **be satisfied with smth.** быць задавóленым чым-н.; **satisfy a request** выкóнваць прóсьбу; **satisfy one's hunger** наталя́ць гóлад; *I am satisfied with your explanation.* Я прымаю ваша тлумачэнне. **2.** прынóсіць задавальнéнне; рáдаваць; **satisfy the ear** лáшчыць слых **3.** адпавядáць (*чаму-н.*); **satisfy demands/requirements** адпавядáць патрабавáнням **4.** перакóнваць; **satisfy oneself of smth.** перакана́цца ў чым-н.
**satisfying** [ˈsætɪsfaɪɪŋ] *adj.* **: a satisfying meal** сы́тная ядá; **a satisfying performance** дóбры спектáкль
**saturate** [ˈsætʃəreɪt] *v.* **1. (with/in)** прапíтваць, напаўня́ць, насычáць (*чым-н.*); *My shoes are saturated.* Мае туфлі прамоклі. **2.** *chem.* нейтралізавáць
**saturated** [ˈsætʃəreɪtɪd] *adj.* прамóклы; **saturated terrain** забалóчаная мясцóвасць, балацявíна
**saturation** [ˌsætʃəˈreɪʃn] *n.* насы́чанасць, насы́чванне; прамóчванне
**saturation point** [ˌsætʃəˈreɪʃnˌpɔɪnt] *n.* **1.** максімáльная кóлькасць (*месцаў*); *The market has reached a saturation point.* Рынак насычаны таварамі. **2.** *chem.* крóпка насычэ́ння

**Saturday** [ˈsætədeɪ] *n.* субо́та; **on Saturday** у субо́ту; **by Saturday** да субо́ты

**Saturn** [ˈsætɜːn] *n.* **1.** *myth.* Сату́рн (*бог пасеваў і земляробства*) **2.** *astron.* Сату́рн (*планета*)

**Saturnalia** [ˌsætəˈneɪliə] *n. fml* сатурна́лія; о́ргія, вакхана́лія; дзі́кі разгу́л

**saturnine** [ˈsætənaɪn] *adj. lit.* змро́чны, пану́ры, хму́рны; **a person of saturnine temper** замкнёны, заця́ты чалаве́к

**satyr** [ˈsætə] *n.* **1.** *myth.* саты́р **2.** распу́снік, юрлі́вец

**sauce** [sɔːs] *n.* **1.** со́ус, прыпра́ва, падлі́ўка; **apple sauce** я́блычнае пюрэ́ **2.** *BrE, infml, dated* дзёрзкасць; *What a sauce!* Якая дзёрзкасць! ♦ **hunger is the best sauce** ≅ на гало́дны зуб усё сма́чна

**sauce boat** [ˈsɔːsˌbəʊt] *n.* со́уснік

**saucepan** [ˈsɔːspən] *n.* кастру́ля

**saucer** [ˈsɔːsə] *n.* (ча́йны) спо́дак; **flying saucers** «лята́ючыя тале́ркі»

**saucy** [ˈsɔːsi] *adj.* **1.** дзёрзкі, непачцí́вы, наха́бны; *You, saucy little girl!* Ты, дзёрзкае дзяўчо! **2.** *infml* сты́льны, фарсí́сты, мо́дны; **a saucy little hat** каке́тлівы капялю́шык

**sauerkraut** [ˈsaʊəkraʊt] *n.* ква́шаная/кі́слая капу́ста

**sauna** [ˈsɔːnə, ˈsaʊnə] *n.* са́ўна, фі́нская ла́зня

**saunter¹** [ˈsɔːntə] *n.* прагу́лка, шпа́цыр, паво́льная хада́; **take an evening saunter** хадзí́ць на вячэ́рні шпа́цыр

**saunter²** [ˈsɔːntə] *v.* прагу́львацца, шпацырава́ць, прахо́джвацца

**saunter away** [ˌsɔːntərəˈweɪ] *phr.v.* марнава́ць, растра́чваць; **saunter away one's time** марнава́ць час

**sausage** [ˈsɒsɪdʒ] *n.* каўбаса́, кілбаса́; сасі́ска, сардэ́лька ♦ **not a sausage** *BrE, dated, infml* нічагу́сенькі, нічагу́ткі, ні ка́ліўца, нічо́гачкі

**sausage dog** [ˈsɒsɪdʒˌdɒg] *n. BrE, infml* та́кса (*сабака*)

**sausage meat** [ˈsɒsɪdʒˌmiːt] *n.* каўба́сны фарш

**sausage roll** [ˌsɒsɪdʒˈrəʊl] *n.* піражо́к з мя́сам; бу́лачка з сасі́скай

**saute¹** [ˈsəʊteɪ] *n.* сатэ́

**saute²** [ˈsəʊteɪ] *v.* сма́жыць у невялі́кай ко́лькасці тлу́шчу

**savage¹** [ˈsævɪdʒ] *n. dated* дзіку́н; дзіку́нка; ва́рвар; грубія́н; грубія́нка; хам; ха́мка

**savage²** [ˈsævɪdʒ] *adj.* **1.** *dated* дзí́кі, дзіку́нскі, ва́рварскі; **a savage man** дзіку́н; **a savage life** першабы́тнае жыццё; **a savage temper** злы но́раў; **savage tribes** дзі́кія плямёны **2.** лю́ты, раз'ю́шаны, раз'я́траны; **a savage attack** я́расная ата́ка; **savage methods** жо́рсткія ме́тады; **get/grow/turn savage** разлютава́цца, раз'ю́шыцца, раз'я́трыцца

**savageness** [ˈsævɪdʒnəs] *n.* дзіку́нства, ва́рварства

**savagery** [ˈsævɪdʒri] *n.* жо́рсткасць, лю́тасць; нецывілізава́насць; **relentless savagery** бязме́жная лю́тасць

**savanna(h)** [səˈvænə] *n.* сава́на

**savant** [ˈsævənt] *n. fml* (вы́бітны) вучо́ны; буйны́ спецыялі́ст у яко́й-н. галіне́ ве́даў

**save¹** [seɪv] *v.* **1. (from)** ратава́ць, вырато́ўваць; **save smb.'s life** вы́ратаваць чыё-н. жыццё; **save oneself** ратава́цца; **save smb. the trouble of doing smth.** пазба́віць каго́-н. неабхо́днасці рабí́ць што-н. **2.** экано́міць, зберага́ць, ашчаджа́ць; **save time/money** экано́міць час/гро́шы; **save on one's wages** адкла́дваць з зарпла́ты; *We saved a mile by taking this route.* Выбраўшы гэтую дарогу, мы скарацілі шлях на мілю. **3.** пакіда́ць, прыберага́ць **4.** ахо́ўваць, засцерага́ць; **God save you!** беражы́ вас Бог! **5.** адбіва́ць нападзе́нне (*у футболе*) ♦ **save appearances** рабí́ць вы́гляд, што нічо́га не зда́рылася; **save against a rainy day** адклад(в)а́ць на чо́рны дзень; **save one's skin** ратава́ць сваю́ шку́ру

**save up** [ˌseɪvˈʌp] *phr.v.* адклада́ць, збіра́ць (*грошы*)

**save²** [seɪv] *prep. dated* акрамя́, апрача́, за вы́няткам чаго́-н.; **all save him** усé, акрамя́ яго́; **the last save one** перадапо́шні; **save and except** за выключэ́ннем

**save³** [seɪv] *conj. dated* акрамя́ таго́, што; *I know nothing save that he returns.* Я не ведаю нічога, акрамя таго, што ён вяртаецца.

**saver** [ˈseɪvə] *n.* укла́дчык (*банка*)

**saving¹** [ˈseɪvɪŋ] *n.* **1.** ашчаджэ́нне, экано́мія; **a saving of time/on money** вы́йгрыш у ча́се/экано́мія гро́шай **2.** *pl.* **savings** зберажэ́нні

**saving²** [ˈseɪvɪŋ] *adj.* экано́мны, ашча́дны; **a saving housekeeper** экано́мная гаспады́ня; **saving grace** стано́ўчая я́касць, што перавыша́е недахо́пы; *Generosity is his saving grace.* За велікадушнасць яму можна прабачыць усё.

**savings account** [ˈseɪvɪŋzəˌkaʊnt] *n.* раху́нак (*у ашчадным банку*)

**savings bank** [ˈseɪvɪŋzˌbæŋk] *n.* ашча́дны банк; ашча́дная ка́са

**savior** [ˈseɪvjə] *AmE* = **saviour**

**saviour** [ˈseɪvjə] *n.* **1.** выратава́льнік; выратава́льніца **2. the Saviour** *relig.* Ісу́с Хрысто́с, Збаў́ца, Збаві́цель

**savoir faire** [ˌsævwɑːˈfeə] *n. франц.* вынахо́длівасць, уме́нне выхо́дзіць з ця́жкага стано́вішча; вы́трымка, такт

**savor**[1] [ˈseɪvə] *AmE* = **savour**[1]
**savor**[2] [ˈseɪvə] *AmE* = **savour**[2]
**savory**[1] [ˈseɪvəri] *n. bot.* чабóр
**savory**[2] [ˈseɪvəri] *AmE* = **savoury**
**savour**[1] [ˈseɪvə] *n.* **1.** смак, пры́смак; пах; *His views have a savour of fanatism*. У яго поглядах ёсць нейкі фанатызм. **2.** цікáвасць, вастрыня́; *Life seems to have lost some of its savour.* Жыццё, здаецца, страціла цікавасць.
**savour**[2] [ˈseɪvə] *v.* **1.** смакавáць, атры́млівать задавальнéнне (*ад паху, смаку і да т.п.*) **2. (of)** мець смак; *The soup savours of onion*. Суп пахне цыбуляй; **savour of smth.** *fml* мець ры́сы/прыкмéты чагó-н.
**savoury** [ˈseɪvəri] *adj.* **1.** салёны; вóстры (*пра стравы*) **2.** апеты́тны, смáчны; **savoury food** смáчная éжа **3.** прыéмны, прывáбны; **not a very savoury reputation** няпэ́ўная рэпутáцыя; **not a very savoury district** непрыгóжы раён
**savvy**[1] [ˈsævi] *n. infml* кéмлівасць, здарóвы сэнс; **political savvy** палíты́чны вóпыт
**savvy**[2] [ˈsævi] *v. infml* кéміць, ця́міць, здагáдвацца, кумéкаць; **savvy?** дайшлó? ця́міў?; **no savvy** не дайшлó
**saw**[1] [sɔː] *n.* пілá, пі́лка; **a circular saw** цыркуля́рка
**saw**[2] [sɔː] *v.* **(sawed, sawn)** пілавáць; пілавáцца; рэ́заць; *This kind of wood saws easily.* Гэтая драўніна лёгка пілуецца.
**saw down** [ˌsɔːˈdaʊn] *phr.v.* спілавáць
**saw off** [ˌsɔːˈɒf] *phr.v.* адпілавáць
**saw up** [ˌsɔːˈʌp] *phr.v.* распілавáць
**saw**[3] [sɔː] *past* → **see**
**sawdust** [ˈsɔːdʌst] *n.* апíлкі; пілавíнне ♦ **knock/let the sawdust out of smb.** збіць гóнар з кагó-н.; раскры́ць чыю́-н. сýтнасць
**sawmill** [ˈsɔːmɪl] *n.* тартáк
**sawn** [sɔːn] *p.p.* → **saw**[2]
**sawyer** [ˈsɔːjə] *n.* лесарýб, пíльшчык, дрывасéк
**sax** [sæks] *n. infml* (*скар. ад* **saxophone**) саксафóн
**Saxon**[1] [ˈsæksən] *n.* **1.** *hist.* сакс **2.** саксóнец
**Saxon**[2] [ˈsæksən] *adj.* саксóнскі; **Saxon tribes** саксóнскія плямёны
**Saxonic** [sækˈsɒnɪk] *adj.* **1.** саксóнскі **2.** áнгла-саксóнскі
**saxophone** [ˈsæksəfəʊn] *n. mus.* саксафóн
**saxophonist** [sækˈsɒfənɪst] *n.* саксафанíст
**say**[1] [seɪ] *n.* **1.** выкáзванне, дýмка; слóва; **have one's say** выкáзваць дýмку **2.** аўтарытэ́т, уплы́ў ♦ **have a say in the matter** мець уплы́ў у нéйкай спрáве; *I have no say in this matter.* Я не вырашаю гэтае пытанне.
**say**[2] [seɪ] *v.* **(said) 1.** гавары́ць, казáць; **say nothing** маўчáць; *Say no more!* Ні слова больш! Хопіць!; *He is said to be a good singer.* Кажуць, што ён добры спявак; *The clock says 6 o'clock.* Гадзіннік паказвае 6 гадзін. **2.** выкáзваць дýмку, лічы́ць, меркавáць, дапускáць; **I should say** я лічу; **there is no saying!** хто ведае!; *Let's take any writer, say Scott*. Давайце возьмем любога пісьменніка, скажам Скота; *What do you say to a trip to Kent?* Як наконт таго, каб паехаць у Кент? **3.** свéдчыць, прывóдзіць дóказы; **say smth. for/against** выкáзвацца за/сýпраць **4.** дэкламавáць, прамаўля́ць на пáмяць; **say one's lessons** паўтарáць урóкі; **say a prayer** малíцца ♦ **before you could/can say Jack Robinson** ≅ рáптам, знячэ́ўку, зняня́цку, неспадзéўкі; **I say!** *infml* паслýхай!; **it goes without saying** самó сабóй зразумéла; **I'm sorry to say** на жаль; **let us say** напры́клад; **I should say so!** вядóма, дзíва што!; **the less/least said the better** чым менш слоў, тым лепш; **never say die** не вéшай нос; **to say nothing of smth.** не гавóрачы ўжо пра што-н.; **that is to say** гэ́та знáчыць; **they say** гавóраць; **you don't say!** *infml* што ты кáжаш! не кажы́! (*выражае здзіўленне*)
**saying** [ˈseɪɪŋ] *n.* **1.** афары́зм; пры́маўка; **as the saying goes/runs/is** як гавóрыцца/кáжуць **2.** выкáзванне; **doings and sayings** слóвы і спрáвы; **it needs no saying** самó сабóй зразумéла
**say-so** [ˈseɪsəʊ] *n. infml* загáд, распараджэ́нне ♦ **on smb.'s say-so** па чыі́м-н. загáдзе
**scab** [skæb] *n.* **1.** струп **2.** паршá, карóста **3.** *infml* штрэйкбрэ́хер
**scabbard** [ˈskæbəd] *n.* нóжны (збрóі)
**scabies** [ˈskeɪbiːz] *n. med.* карóста
**scads** [skædz] *n. pl. infml* вялíкая кóлькасць, мáса, кýча, грýда; **scads of money** кýча грóшай
**scaffold** [ˈskæfəʊld] *n.* **1.** плáха, эшафóт; **go to the scaffold** ісцí на плáху, быць пакарáным **2.** рыштавáнне
**scaffolding** [ˈskæfəldɪŋ] *n.* рыштавáнне
**scald**[1] [skɔːld] *n.* апёк (*кіпенем*)
**scald**[2] [skɔːld] *v.* апáрваць (*кіпенем*), апякáць; **scalded cream** заварны́ крэм; **be scalded to death** памірáць ад апёкаў
**scalding** [ˈskɔːldɪŋ] *adj*, *adv*: **scalding tears** гарýчыя слёзы; **scalding sun** пякýчае сóнца; *It's scalding hot*. Нязносна горача.
**scale**[1] [skeɪl] *n.* **1.** лускá, лускавíнка; **a lizard's scale** лускá я́шчаркі **2.** тóнкі слой, плёнка, шалупíнне; **scrape off scale** саскрабáць шалупíнне **3.** нáкіп (*на чайніку*) **4.** зубны́ кá-

мень ♦ **remove the scales from the eyes** расплю́шчыць во́чы (*на рэальны стан спраў*); *Scales fell from his eyes*. Заслона спала з яго вачэй.

**scale**[2] [skeɪl] *v.* **1.** здыма́ць шалупі́нне, луску́ і да т.п. **2.** здыма́ць зубны́ ка́мень

**scale**[3] [skeɪl] *n.* **1.** шкала́; **Fahrenheit scale** шкала́ Фарэнгейта; **a wave-length scale** шкала́ хва́ляў (*пра радыё*); **a scale of wages** шкала́ зарпла́ты **2.** машта́б, паме́р; **on a large scale** у вялі́кім паме́ры; **on a world scale** у сусве́тным машта́бе **3.** ле́свіца; **be high in the social scale** займа́ць высо́кае стано́вішча ў грама́дстве **4.** *mus.* га́ма; **practise scales** ігра́ць га́мы **5.** машта́бная ліне́йка; **to scale** па машта́бе

**scale**[4] [skeɪl] *v. fml* падыма́цца, узла́зіць (*таксама перан.*); **scale a mountain** узбіра́цца на гару́

**scale down** [ˌskeɪlˈdaʊn] *phr.v.* скарача́ць; **scale down imports** паступо́ва скарача́ць і́мпарт; **scale down prices** зніжа́ць цэ́ны

**scale up** [ˌskeɪlˈʌp] *phr.v.* паступо́ва павялі́чваць, падвыша́ць; **scale up production** пашыра́ць вытво́рчасць; **scale up taxes** падвыша́ць пада́ткі

**scales** [skeɪlz] *n. pl.* **1.** ва́гі, ша́лі; *That victory turned the scales in our favour*. Тая перамога вырашыла вынік справы на нашу карысць; **a scales weight** гі́ра **2. the Scales** *astron.* Ша́лі (*знак задыяка*) **3. the Scales** *astrol*. Ша́лі (*знак задыяка*; *чалавек, які нарадзіўся пад гэтым знакам*) ♦ **tip the scale(s) at smth.** *infml* выраша́ць кане́ц спра́вы

**scallop** [ˈskɒləp] *n.* **1.** ство́ркавая ра́кавіна; фо́рмачка ў вы́глядзе ра́кавіны (*для запякання рыбы*) **2.** во́страя стра́ва з ву́стрыц (*прыгатаваная ў ракавіне рыбы-грабянька*); эскало́п; сма́жаная бу́льба ў це́сце

**scallywag** [ˈskæliwæg] *n. BrE, infml* ло́дар, гульта́й, лайда́к, абібо́к; *You naughty little scallywag!* Ты малы непаслухмяны гультай!

**scalp**[1] [skælp] *n.* **1.** ску́ра чэ́рапа; **a hairless scalp** лы́сы чэ́рап **2.** скальп ♦ **be after smb.'s scalp** быць агрэсі́ўна настро́еным да каго́-н.; **have smb.'s scalp** перамагчы́ каго́-н. (*у спрэчцы*); адпо́мсціць каму́-н. (*за крыўду*)

**scalp**[2] [skælp] *v.* **1.** скальпава́ць; абраза́ць ко́ратка валасы́ **2.** рэ́зка крытыкава́ць (*каго-н.*)

**scalpel** [ˈskælpəl] *n.* ска́льпель

**scaly** [ˈskeɪli] *adj.* пакры́ты лускаві́най, лускава́ты; пакры́ты на́кіпам, іржо́й; **scaly with rust** іржа́вы

**scam** [skæm] *n. infml* жу́льніцтва, круце́льства, ашука́нства, махля́рства

**scamper**[1] [ˈskæmpə] *n.* ху́ткі бег, прабе́жка; **a scamper through the city** ху́ткі агля́д го́рада; **go for/take/have a scamper** прабе́гчыся

**scamper**[2] [ˈskæmpə] *v.* не́сціся; бе́гчы стрымгало́ў; **scamper up the steps** ляце́ць па прысту́пках; *The children scampered away through the door.* Дзеці шмыгнулі праз дзверы.

**scampi** [ˈskæmpi] *n. pl. BrE* вялі́кія крэве́ткі

**scan**[1] [skæn] *n.* **1.** ува́жлівае і падрабя́знае вывучэ́нне, пі́льны разгля́д **2.** *comput.* прагон, по́шук, прагля́д; **after/at a single scan** за адзі́н прагон

**scan**[2] [skæn] *v.* **1.** разгляда́ць, ува́жліва глядзе́ць; вывуча́ць, падрабя́зна разбіра́ць; **scan smb.'s face** ува́жліва ўзіра́цца ў чый-н. твар; **scan a book closely** ува́жліва ўчы́твацца ў кні́гу **2.** прагляда́ць, прабяга́ць вачы́ма; **scan the bill** прагляда́ць афі́шу **3.** *comput.* скані́раваць; прагляда́ць, правяра́ць. **4.** скандзі́раваць; чыта́ць рытмі́чныя ве́ршы; **scan a poem** скандзі́раваць верш; *This verse won't scan*. У гэтым вершы няма памеру.

**scandal** [ˈskændl] *n.* **1.** сканда́л; га́ньба; **cause/hush up a scandal** учыня́ць/замя́ць сканда́л **2.** плёткі, зласло́ўе; **spread scandal** распаўсю́джваць плёткі, пляткáрыць

**scandalize,** *BrE* **-ise** [ˈskændəlaɪz] *v.* абура́ць; бянтэ́жыць, шакі́раваць; *She was scandalized by his misconduct.* Яна была абурана яго кепскімі ўчынкамі.

**scandalous** [ˈskændələs] *adj.* **1.** сканда́льны, ганe ́бны, абура́льны; **scandalous behaviour** гане́бныя паво́дзіны **2.** паклёпніцкі; **scandalous rumours** паклёпніцкія чу́ткі; **scandalous tongues** злы́я языкі́

**Scandinavian**[1] [ˌskændɪˈneɪviən] *n.* скандына́ў, скандына́вец; скандына́ўка; **the Scandinavians** скандына́вы

**Scandinavian**[2] [ˌskændɪˈneɪviən] *adj.* скандына́ўскі

**scanner** [ˈskænə] *n. comput.* ска́нер, скані́руючая прыла́да

**scant** [skænt] *adj.* **1.** недастатко́вы, мізэ́рны; **be of scant breath** задыха́цца; **be of scant speech** быць скупы́м на сло́вы; **do scant justice** несправядлі́ва ста́віцца (*да каго-н., чаго-н.*), недаацэ́ньваць (*што-н., каго-н.*); **scant attendance** ке́пскае наве́дванне; **show smb. scant hospitality** ке́пска прыма́ць каго́-н.; **2.** абмежава́ны, малы́; **scant two hours** усяго́ дзве гадзі́ны; *He is scant of sense*. Яму не хапае разважнасці; *We are scant of money*. У нас канчаюцца грошы.

**scanty** [ˈskænti] *adj.* бéдны, мізэ́рны, недастаткóвы; **scanty vegetation** убóгая раслíннасць; **a scanty crop** бéдны ўраджáй; **scanty hair** рэ́дкія валасы́

**scapegoat** [ˈskeɪpɡəʊt] *n.* казёл адпушчэ́ння; *He was made a scapegoat.* З яго зрабілі казла адпушчэння.

**scapula** [ˈskæpjələ] *n. anat.* лапáтка (*спіны*)

**scar**[1] [skɑː] *n.* **1.** шрам, рубéц; глыбóкая дрáпіна (*на дрэвах, камянях і да т.п.*) **2.** глыбóкі след, рáна; **a scar upon one's good name** плямa на рэпутáцыі; *Her years in prison left a scar.* Яе гады ў турме пакінулі глыбокі след.

**scar**[2] [skɑː] *v.* **1.** пакідáць шрáмы, пакідáць след; **a face scarred with sorrow** твар, на якíм гóра пакíнула сляды́ **2. (over)** зарубцóўвацца (*пра рану*); *Will the cut scar over?* Парэз зарубцуецца?

**scarce** [skeəs] *adj.* **1.** бéдны, мізэ́рны, недастаткóвы, дэфіцы́тны; **scarce resources** бéдныя рэсýрсы; *It was war-time and food was scarce.* Была вайна, і не хапала прадуктаў. **2.** рэ́дкі, нячáсты; *This book is now scarce.* Гэтая кніга цяпер рэдкасць. ♦ **make oneself scarce** *infml* уцякáць, знікáць; старáцца не трапляць на вóчы

**scarcely** [ˈskeəsli] *adv.* **1.** як тóлькі, ледзь, лéдзьве; *Scarcely had she entered the room when the bell rang.* Як толькі яна ўвайшла ў пакой, зазвінеў званок; *I scarcely know him.* Я амаль не ведаю яго. **2.** наўрáд ці; *You can scarcely expect me to believe that.* Наўрад ці трэба чакаць, што я паверу ў гэта.

**scarcity** [ˈskeəsəti] *n.* **1.** недахóп, дэфіцы́т; **a scarcity of food** недахóп прадýктаў харчавáння; **a scarcity of labour** дэфіцы́т рабóчых рук; **a scarcity price** павы́шаная цанá ў час недахóпу тавáраў **2.** рэ́дкасць; *This book is scarcity now.* Гэтую кнігу рэдка дзе знойдзеш.

**scare**[1] [skeə] *n.* спалóх, перапýд; пáніка; **give a scare** пужáць, палóхаць; **get a scare** пужáцца, палóхацца; **raise a scare** паднімáць пáніку

**scare**[2] [skeə] *v.* пужáць; пужáцца; палóхаць; палóхацца; **scare smb. to death** напалóхаць кагó-н. да смéрці; *He scares easily.* Яго лёгка напалохаць.

**scare away** [ˌskeərəˈweɪ] *phr.v.* адпýжваць

**scare off** [ˌskeərˈɒf] *phr.v.* = **scare away**

**scarecrow** [ˈskeəkrəʊ] *n.* пýдзіла (*у садзе, гародзе і да т.п.*)

**scared** [skeəd] *adj.* **(of)** спалóханы, напалóханы, напужáны; **be scared stiff** *infml* мóцна напужáцца, вéльмі баяцца (*чаго-н., каго-н.*)

**scaremonger** [ˈskeəˌmʌŋɡə] *n.* панікёр; панікёрша

**scarf** [skɑːf] *n.* (*pl.* **scarves** *or* **scarfs**) шáлік; **a head scarf** хýстка, хусцíнка; касы́нка

**scarify** [ˈskærɪfaɪ] *v.* **1.** разрыхляць зямлю́ пéрад сяўбóй **2.** *med.* рабíць насéчкі, надрэ́зы

**scarlet** [ˈskɑːlət] *adj.* пунсóвы, я́рка-чырвóны; **blush scarlet** чырванéць, залівáцца румя́нцам; **be scarlet with shame** чырванéць ад сóраму

**scarlet fever** [ˌskɑːlətˈfiːvə] *n. med.* шкарлятьі́на

**scarlet woman** [ˌskɑːlətˈwʊmən] *n.* (*pl.* **-women**) *dated, derog.* прастытýтка

**scarp** [skɑːp] *n.* круты́ адхóн

**scarper** [ˈskɑːpə] *v. BrE, infml* давáць дрáла, давáць лататы́

**scarves** [skɑːvz] *pl.* → **scarf**

**scathing** [ˈskeɪðɪŋ] *adj.* **(about)** з'éдлівы, злы; жóрсткі; **a scathing look** пагáрдлівы пóзірк; **a scathing remark** з'éдлівая заўвáга

**scatter**[1] [ˈskætə] *n.* раскíдванне, рóскід; рассéйванне; **a scatter of hailstones** градабóй

**scatter**[2] [ˈskætə] *v.* **1.** раскíдваць, рассыпáць; **scatter seed** раскíдваць зярня́ты; **scatter sand** рассыпáць пясóк; *Don't scatter your money around.* Не пускай грошы на вецер. **2.** разганя́ць; расставáцца, разыхóдзіцца; *The police scattered the crowd.* Паліцыя разагнала натоўп; *The birds scattered when a shot was fired.* Птушкі разляцеліся, калі раздаўся выстрал. **3.** насыпáць, усыпáць; **scatter the fields with seed** засéйваць палí **4.** разбівáць, развéйваць (*надзеі, планы*); *All our hopes and plans were scattered to the four winds.* Усе нашы надзеі і планы пайшлі марна.

**scatterbrain** [ˈskætəbreɪn] *n. infml* ветрагóн, шалахвóст

**scattered** [ˈskætəd] *adj.* **1.** рассы́паны, расцярýшаны, раскíданы **2.** паасóбны, некатóры; **sunshine with scattered showers** сóнечнае надвóр'е сям-там з лíўнямі

**scatty** [ˈskæti] *adj. BrE, infml* малахóльны; кранýты, дурнавáты, ненармáльны; *The noise will drive anyone scatty.* Ад гэтага шуму любы здурнее.

**scavenge** [ˈskævɪndʒ] *v.* **(for)** кóрпацца, шукáць (*што-н.*) у адкíдах

**scavenger** [ˈskævɪndʒə] *n.* жывёліна, птýшка або ры́ба, якíя кóрміцца адкíдамі

**scenario** [səˈnɑːriəʊ] *n.* (*pl.* **-os**) **1.** (кіна)сцэнáрый **2.** план дзéянняў; прагрáма імпрэ́зы **3.** лібрэ́та (*оперы, балета і да т.п.*)

**scenarist** [ˈsiːnərɪst] *n.* сцэнары́ст, кінадраматýрг

**scene** [siːn] *n.* **1.** мéсца дзéяння (*у п'есе, рамане і да т.п.*); *The scene is laid in France*. Дзеянне адбываецца ў Францыі. **2.** мéсца (*падзеі*); **the scene of operations** тэáтр ваéнных дзéянняў **3.** відóвішча; пейзáж, краявíд; **a typical scene of English life** тыпóвая карцíна англíйскага жыццá **4.** сцэ́на, скандáл; **make a scene** учынíць скандáл **5.** *theatre* сцэ́на, з'я́ва; **the duel scene in "Hamlet"** сцэ́на дуэ́лі ў «Гáмлеце»; **an act of four scenes** акт з чатырóх дзéяў **6.** *pl.* **scenes** дэкарáцыя; **change/shift the scenes** мяня́ць дэкарáцыі ♦ **behind the scenes** за кулíсамі; закулíсна; у кулуáрах; **behind the scenes of politics** у палітьíчных кулуáрах; **be on the scene** прысу́тнічаць; **set the scene (for smth.)** падрыхтавáць глéбу (для чагó-н.); *His arrival set the scene for another argument*. Яго прыезд стаў прычынаю яшчэ адной спрэчкі.

**scene designer** [ˈsiːndɪˌzaɪnə] *n.* мастáк-дэкарáтар

**scenery** [ˈsiːnəri] *n.* **1.** краявíд, пейзáж; **mountain scenery** гóрны краявíд **2.** *theatre* декарáцыі; **rolling scenery** перасóўныя дэкарáцыі

**sceneshifter** [ˈsiːnˌʃɪftə] *n.* рабóчы сцэ́ны

**scenic** [ˈsiːnɪk] *adj.* **1.** маляўнíчы (*краявід*); **a scenic route across the Alps** маляўнíчы маршру́т праз А́льпы **2.** сцэнíчны; **scenic effects** сцэнíчныя эфéкты

**scent¹** [sent] *n.* **1.** пах, вóдар, духмя́насць; **the scent of flowers** вóдар кветáк **2.** духí; *She uses too much scent*. Яна залішне ўжывае духі. **3.** след (*пра паляванне*); **pick up/lose the scent** напáсці на/згубíць след ♦ **be on the scent** ісцí па слядáх; быць на прáвільным шля́ху; **be on a false scent** ісцí памылкóвым шля́хам; **put/throw smb. off the scent** збíць кагó-н. са слéду, з прáвільнага шля́ху; заблы́таць кагó-н.

**scent²** [sent] *v.* **1.** адчувáць пах, чуць ню́хам; ню́хаць; **scent spring in the air** адчувáць пах вясны́ ў павéтры **2.** знюхваць, пранюхваць; **scent treachery** западóзрыць здрáду; **scent danger** адчувáць небяспéку **3.** душы́ць, надушы́ць; **a handkerchief scented with lavender** насóўка з пáхам лавáнды **4.** напаўня́ць пáхам/вóдарам; *The roses scented the whole garden*. Увесь сад быў напоўнены водарам ружаў.

**scepter** [ˈseptə] *AmE* = **sceptre**

**sceptic** [ˈskeptɪk] *n.* скéптык; **the sceptic school** шкóла філóсафаў-скéптыкаў

**sceptical** [ˈskeptɪkl] *adj.* **(of/about)** скептычны; **be sceptical of smth.** стáвіцца да чагó-н. скептычна, сумнявáцца ў чым-н.

**scepticism** [ˈskeptɪsɪzəm] *n.* скептыцы́зм; *The reports were treated with scepticism*. Да дакладаў ставіліся скептычна.

**sceptre** [ˈseptə] *n.* скíпетр; **hold/weild the sceptre** уладáрыць; **lay down the sceptre** адмóвіцца ад вярхóўнай улáды

**schedule¹** [ˈʃedjuːl, ˈskedʒuːl] *n.* **1.** расклáд; грáфік, план, праграма; **according to/on schedule** па расклáдзе; **ahead of schedule** датэрмінóва; **be behind the schedule** адставáць ад плáна **2.** спіс, пералíк; каталóг **3.** *AmE* расклáд ру́ху цягнікóў

**schedule²** [ˈʃedjuːl, ˈskedʒuːl] *v.* рабíць расклáд, планавáць; **a scheduled flight** рэйс па расклáдзе; *She is scheduled to give a speech*. Плануецца, што яна выступіць з прамовай.

**schema** [ˈskiːmə] *n.* (*pl.* **schemata**) *fml* **1.** схéма **2.** *ling.* фігу́ра мóвы

**schematic** [skiːˈmætɪk] *adj.* схематы́чны; **a schematic representation of smth.** схематы́чная падáча чагó-н.

**scheme¹** [skiːm] *n.* **1. (for)** план, праéкт, праграма; **lay a scheme** заду́мваць, складáць план **2.** сістэ́ма, структу́ра; **a colour scheme** спалучэ́нне кóлераў **3.** інтры́га, махінáцыя ♦ **the scheme of things** стан спрáў

**scheme²** [skiːm] *v.* **1. (for)** планавáць, праектавáць **2.** заду́мваць (*нядобрае*), інтрыгавáць; *They are scheming to get her elected as leader*. Яны плануюць выбраць яе лідарам; *Her enimies are scheming her downfall*. Яе ворагі задумваюць праваліць яе.

**schemer** [ˈskiːmə] *n.* **1.** інтрыгáн; інтрыгáнка **2.** змóўнік; змóўніца

**scheming** [ˈskiːmɪŋ] *adj.* кавáрны, ветралóмны, хíтры; **scheming rivals** хíтрыя канкурэ́нты

**scherzo** [ˈskeətsəʊ] *n.* (*pl.* **-os**) *mus.* скéрца

**schism** [ˈs(k)ɪzəm] *n.* **1.** раскóл **2.** *relig.* éрась, схíзма **3.** сéкта

**schismatic** [s(k)ɪzˈmætɪk] *adj.* **1.** раскóльніцкі **2.** *relig.* ерэты́чны

**schizoid** [ˈskɪtsɔɪd] *n. med.* шызафрэ́нік, шызóід

**schizophrenia** [ˌskɪtsəʊˈfriːniə] *n. med.* шызафрэнíя

**schizophrenic** [ˌskɪtsəʊˈfrenɪk] *adj.* шызафрэнíчны

**schmaltz** [ʃmɔːlts] *n. infml* залíшне сентыментáльная му́зыка абó літарату́рны твор; **a schmaltz artist** кампазíтар абó пісьмéннік, які́ пíша залíшне сентыментáльныя твóры

**schnapps** [ʃnæps] *n.* шнапс; гарэ́лка

**schnitzel** [ˈʃnɪtsəl] *n.* шнíцаль

**scholar** [ˈskɒlə] *n.* **1.** навукóвец, даслéдчык; асóба з вялíкімі вéдамі (*звычайна гуманітарных навук*); **a Greek history scholar** даслéдчык грэ́часкай гістóрыі **2.** стыпендыя́т

**scholarly** [ˈskɒləli] *adj.* дасле́дчы; навуко́вы; **a scholarly approach** навуко́вы падыхо́д; *He's a scholarly type*. Ён з навукоўцаў.

**scholarship** [ˈskɒləʃɪp] *n.* **1.** стыпе́ндыя; **win a scholarship** атрыма́ць стыпе́ндыю **2.** адукава́насць, вучо́насць, навуко́васць; **a teacher of great scholarship** шыро́ка адукава́ны выкла́дчык

**scholastic** [skəˈlæstɪk] *adj. fml* **1.** шко́льны, наста́ўніцкі; **scholastic achievements** шко́льныя дасягне́нні **2.** схаласты́чны, фарма́льны; **scholastic theology** схаласты́чная тэало́гія; **dull scholastic reports** ну́дныя сухі́я дакла́ды; **a scholastic manner** педанты́чная мане́ра

**school**[1] [sku:l] *n.* **1.** шко́ла; **a primary/secondary school** пачатко́вая/сярэ́дняя шко́ла; **a public/private school** прыва́тная шко́ла; **an art school** шко́ла маста́цтваў **2.** шко́ла, заня́ткі; **go to school** вучы́цца ў шко́ле; **leave school** зако́нчыць шко́лу; *School begins at 9.00*. Заняткі пачынаюцца а 9 гадзіне. **3.** факультэ́т універсітэ́та; **the law school** юрыды́чны факультэ́т **4.** кіру́нак, шко́ла (*у навуцы, мастацтве і да т.п.*) **5. : a school of life** жыццёвы во́пыт ♦ **a school of arts** *AustralE* се́льскі клуб; **a school of thought** шко́ла аднаду́мцаў

**school**[2] [sku:l] *n.* кася́к (*рыбы*); **a school of whales** чарада́ кітоў

**school**[3] [sku:l] *v.* стры́млівaць, дысцыплінава́ць; **school oneself in patience** трэніраваць цярпе́нне; **school one's tongue** вучы́цца не гавары́ць лі́шняга; **school oneself into a habit** набыва́ць звы́чку; **school a horse** аб'язджа́ць каня́

**school age** [ˈsku:leɪdʒ] *n.* шко́льны ўзрост; **school age children** дзе́ці шко́льнага ўзро́сту

**schoolboy** [ˈsku:lbɔɪ] *n.* шко́льнік; **schoolboy slang** шко́льны жарго́н; **schoolboy mischief** шко́льнае сваво́льства

**schooldays** [ˈsku:ldeɪz] *n. pl.* шко́льныя гады́; **in my schooldays** калі́ я вучы́ўся ў шко́ле

**schoolfellow** [ˈsku:lˌfeləʊ] *n.* аднакла́снік, аднака́шнік

**school friend** [ˈsku:lfrend] *n.* шко́льны ся́бар; шко́льная сябро́ўка

**schoolgirl** [ˈsku:lgɜ:l] *n.* шко́льніца, вучані́ца

**schoolhouse** [ˈsku:lhaʊs] *n.* буды́нак шко́лы (*асабліва вясковай*)

**schooling** [ˈsku:lɪŋ] *n.* адука́цыя, навуча́нне; **free schooling** бяспла́тная адука́цыя; *He had very little schooling*. Ён мала вучыўся.

**school leaver** [ˌsku:lˈli:və] *n. BrE* выпускні́к шко́лы

**school-marm** [ˈsku:lmɑ:m] *n. derog.* шко́льная наста́ўніца, яка́я лю́біць павуча́ць

**schoolmaster** [ˈsku:lˌmɑ:stə] *n. dated* шко́льны наста́ўнік

**schoolmate** [ˈsku:lmeɪt] *n.* = **school friend**

**schoolmistress** [ˈsku:lˌmɪstrəs] *n. dated* шко́льная наста́ўніца

**schoolroom** [ˈsku:lrʊm] *n.* кла́сны пако́й

**schoolteacher** [ˈsku:lˌti:tʃə] *n.* шко́льны наста́ўнік; шко́льная наста́ўніца

**schooner** [ˈsku:nə] *n.* **1.** шху́на **2.** фужэ́р для шэ́ры-брэ́ндзі; *AmE* вялі́кі піўны́ ке́ліх

**schwa** [ʃwɑ:] *n. ling.* нейтра́льны гало́сны гук

**sciatica** [saɪˈætɪkə] *n. med.* паясні́чна-крыжавы́ радыкулі́т, ішыя́с

**science** [ˈsaɪəns] *n.* **1.** наву́ка; **natural/exact sciences** прыродазна́ўчыя/дакла́дныя наву́кі; **a man of science** навуко́вец **2.** уме́нне, тэхні́чнасць; **blind smb. with science** здзіўля́ць каго́-н. сваі́мі ве́дамі (*асабліва тэхнічнымі*); *In this game you need more science than strength*. У гэтай гульні патрабуецца больш спрыту, чым сілы. ♦ **the science of self-defence** бокс; са́мба; **the noble science** *joc.* бокс; фехтава́нне

**science fiction** [ˌsaɪənsˈfɪkʃn] *n.* навуко́вая фанта́стыка

**scientific** [ˌsaɪənˈtɪfɪk] *adj.* **1.** навуко́вы; **a scientific discovery** навуко́вае адкрыццё; **a scientific researcher** навуко́вы дасле́дчык **2.** *sport* высо́кага кла́са, тэхні́чны; **scientific boxing** бокс высо́кага кла́са

**scientist** [ˈsaɪəntɪst] *n.* навуко́вец (*у дакладных навуках*); **a research scientist** навуко́вы супрацо́ўнік, які́ займа́ецца дасле́дчыцкай пра́цай

**sci-fi** [ˈsaɪˌfaɪ] *n. infml* = **science fiction**

**scintilla** [sɪnˈtɪlə] *n. fml* кро́пля; і́скра; **not a scintilla of smth.** ні кро́плі чаго́-н.; **not a scintilla of truth** ні кро́плі пра́ўды; **speak without a scintilla of animation** гавары́ць без уся́кага натхне́ння

**scintillate** [ˈsɪntɪleɪt] *v.* **1.** зіхаце́ць; блішчэ́ць; блі́скаць; *Diamonds scintillate.* Дыяменты зіхацяць. **2.** выпраме́ньваць; *Her eyes scintillated.* Яе вочы блішчэлі (ад радасці).

**scintillating** [ˈsɪntɪleɪtɪŋ] *adj.* бліску́чы, зіхатлі́вы, іскры́сты; дасці́пны; *You were scintillating on TV last night.* Ты ўчора бліскуча выступіў на тэлебачанні.

**scion** [ˈsaɪən] *n.* **1.** *fml* нашча́дак, пато́мак; **a scion of an ancient house** нашча́дак старажы́тнага ро́ду **2.** *bot.* па́сынак (*расліны*)

**scissors** [ˈsɪzəz] *n. pl.* нажні́цы ♦ **scissors and paste** літарату́рная кампіля́цыя

**sclerosis** [skləˈrəʊsɪs] *n. med.* (*pl.* **scleroses**) склеро́з

**scoff**[1] [skɒf] *n.* насме́шка, здзек, глумле́нне; сарка́зм; **scoffs and jeers** з'е́длівыя насме́шкі і шпі́лькі

**scoff**[2] [skɒf] *v.* **(at)** насміха́цца, здзе́кавацца; **scoff at other people's beliefs** асме́йваць ве́ру і́ншых людзе́й

**scold** [skəʊld] *v. fml* ла́яць; ла́яцца; свары́цца; **scold a naughty child** ушчува́ць непаслухмя́нае дзіця́

**scolding** [ˈskəʊldɪŋ] *n.* вымо́ва; **catch a scolding** атрыма́ць вымо́ву; **give a scolding** зрабі́ць вымо́ву

**scone** [skɒn] *n.* ячме́нны або́ пшані́чны прасначо́к

**scoop**[1] [sku:p] *n.* **1.** шу́флік, лы́жачка (*для цукру, мукі і да т.п.*); чарпачо́к (*для вадкасці*); *med.* лы́жачка, ко́ўшык **2.** чэ́рпанне, зачэ́рпванне; **in/at one scoop, with a scoop** адны́м ма́хам; за адзі́н раз; адны́м захо́дам **3. the scoop** *AmE, infml* сенсацы́йная навіна́ (*якая з'явілася ў якой-н. газеце раней, чым у іншых*)

**scoop**[2] [sku:p] *v.* **1.** капа́ць, выко́пваць **2.** чэ́рпаць, зачэ́рпваць; зграба́ць, збіра́ць (*шуфлікам*) **3.** *AmE, infml* адхапі́ць вялі́кія гро́шы; **scoop a large profit** адхапі́ць ка́вал **4.** друкава́ць сенсацы́йную навіну́ (*раней за іншых*) ♦ **scoop the pool** *infml* заграба́стаць уве́сь прыбы́так

**scoot** [sku:t] *v. infml* бе́гчы ве́льмі ху́тка; змыва́цца, уцяка́ць; *Get out of here! Scoot!* Выбірайся адсюль! Змывайся!

**scooter** [ˈsku:tə] *n.* **1.** ску́тар, мотаро́лер **2.** дзіця́чы самака́т

**scope** [skəʊp] *n.* **1.** магчы́масць, по́ле дзе́яння; прасто́р; *This job gives him plenty of scope for his abilities*. Гэтая праца дае яму магчымасць разгарнуцца. **2.** машта́б, разма́х, сфе́ра (*дзейнасці*), ахо́п; кругагля́д; *He has a mind of wide scope*. У яго шырокі кругагляд; *It's beyond my scope*. Гэта за межамі маёй кампетэнцыі.

**scorch** [skɔ:tʃ] *v.* **1.** абпа́льваць; прыпа́льваць; падсма́льваць; *I scorched my shirt when I was ironing.* Я прыпаліў кашулю прасам. **2.** высу́шваць; спа́льваць; *The grass looked scorched after the heat.* Трава выглядала высахлай пасля спякоты.

**scorcher** [ˈskɔ:tʃə] *n. infml* **1.** спяко́тны дзень; *Whew! It's a real scorcher today*. Цьфу! Але і спякота сёння! **2.** што-н. небыва́лае, ашаламля́льнае; *She is a scorcher!* Яна проста ашаламляльная!

**scorching** [ˈskɔ:tʃɪŋ] *adj.* пяку́чы; гара́чы, спяко́тны; *It's scorching hot today.* Сёння нязносная гарачыня.

**scorch mark** [ˈskɔ:tʃˌmɑ:k] *n.* падпа́ліна, прыпа́ленае ме́сца

**score**[1] [skɔ:] *n.* **1.** лік; лік ачко́ў (*у гульні*); **keep the score** ве́сці лік; **make a score of 50 points** набра́ць 50 ба́лаў **2.** ме́тка, зару́бка, рубе́ц **3.** два дзяся́ткі; **two score and ten** пяцьдзяся́т; **scores of people** шмат людзе́й **4.** *mus.* партыту́ра ♦ **on more scores than one** па шматлі́кіх прычы́нах; **on this score** на гэ́ты конт, у гэ́тых адно́сінах; **play/settle old scores** зво́дзіць стары́я раху́нкі; расквíтвацца

**score**[2] [skɔ:] *v.* **1.** ве́сці лік (*у гульні*); набіра́ць ачкі́, ба́лы; **score a goal** забі́ць гол; *She scored 100 in the test*. Яна набрала 100 балаў за тэст. **2.** залі́чваць (*ачкі*) **3.** дабіва́цца по́спеху; *The programme scored a real hit with the public*. Праграма мела вялікі поспех у публікі. **4.** дра́паць, рабі́ць зару́бкі

**score off** [ˌskɔ:rˈɒf] *phr.v.* атрыма́ць верх (*над кім-н.*); *It's easy to score off that poor silly woman*. Вельмі лёгка збіць з панталыку гэтую дурніцу.

**score out** [ˌskɔ:rˈaʊt] *phr.v.* выкрэ́сліваць

**score through** [ˌskɔ:ˈθru:] *phr.v.* = **score out**

**scorer** [ˈskɔ:rə] *n.* **1.** лічы́льнік ачко́ў, маркёр **2.** ігро́к, гуле́ц, які́ забіва́е мяч; а́ўтар го́ла

**scorn**[1] [skɔ:n] *n.* **1. (for)** пага́рда, грэ́баванне; **show one's scorn** ста́віцца з пага́рдаю, грэ́баваць; **hold smb. in scorn** пагарджа́ць кім-н. **2.** аб'е́кт пага́рды; **laugh smb. to scorn** высме́йваць каго́-н., паднíма́ць каго́-н. на смех; *He is the scorn of his friends now*. Сябры ставяцца да яго цяпер з пагардаю. ♦ **pour/heap scorn on smb.** вылíва́ць на каго́-н. сваю́ пага́рду

**scorn**[2] [skɔ:n] *v.* **1.** пагарджа́ць, ста́віцца з пага́рдаю **2.** *fml* адхіля́ць, адмаўля́цца (*ад чаго-н.*); **scorn smb.'s advice** грэ́баваць чыёй-н. пара́даю

**scornful** [ˈskɔ:nfəl] *adj.* **(of)** пага́рдлівы; *She was scornful of our efforts.* Яна пагардліва ставілася да нашых намаганняў.

**Scorpio**[1] [ˈskɔ:piəʊ] *n.* **1.** *astron.* Скарпіён (*сузор'е*) **2.** *astrol.* Скарпіён (*знак задыяка*; *чалавек, які нарадзіўся пад гэтым знакам*)

**scorpion**[2] [ˈskɔ:piən] *n.* **1.** скарпіён; з'е́длівы чалаве́к **2. the Scorpion** *astron.* Скарпіён (*сузор'е*) **3. the Scorpion** *astrol.* Скарпіён (*знак задыяка*; *чалавек, які нарадзіўся пад гэтым знакам*)

**Scot** [skɒt] *n.* шатла́ндзец; шатла́ндка

**Scotch**[1] [skɒtʃ] *n.* **1.** шатла́ндскае ві́скі **2. :** *Do you want **a Scotch**?* Не хочаш чарку віскі?

**Scotch**[2] [skɒtʃ] *adj.* шатла́ндскі

**scotch**[3] [skɒtʃ] *v.* выво́дзіць са стро́ю; абясшко́джваць; спыня́ць, знішча́ць (*што-н.*); **scotch a mutiny** задушы́ць паўста́нне; **scotch a snake** вы́рваць джа́ла ў змяі́; **scotch a rumour** спыні́ць чу́ткі (*пра што-н.*)

**Scotch broth** [ˌskɒtʃˈbrɒθ] *n. BrE* я́чны кру́пнік, панца́к (*з гароднінай*)

**Scotch cap** [ˌskɒtʃˈkæp] *n.* шатла́ндская ша́пачка, бера́т

**Scotch egg** [ˌskɒtʃˈeg] *n.* яйцо́ па-шатла́ндску (*запечанае ў каўбасным фаршы*)

**Scotchman** [ˈskɒtʃmən] *n.* (*pl.* **-men**) шатла́ндзец (*у мове нешатландцаў*) ♦ **Flying Scotchman** экспрэ́с «Ло́ндан – Э́дынбург»

**Scotch mist** [ˌskɒtʃˈmɪst] *n.* густы́ тума́н з імглóю

**Scotch tape** [ˌskɒtʃˈteɪp] *n.* «скотч» (*лента для склейвання*), кле́йкая сту́жка

**Scotch terrier** [ˌskɒtʃˈteriə] *n.* шатла́ндскі тэр'е́р (*сабака*)

**Scotchwoman** [ˈskɒtʃˌwʊmən] *n.* (*pl.* **-women**) шатла́ндка (*у мове нешатландцаў*)

**scot free** [ˌskɒtˈfriː] *adj. infml* цалю́сенькі, цэ́лы, цалю́ткі ♦ **go/get off scot free** вы́йсці сухі́м з вады́

**Scotland Yard** [ˌskɒtləndˈjɑːd] *n.* Ско́тланд-Ярд

**Scots** [skɒts] *adj.* шатла́ндскі; **a Scots accent** шатла́ндскі акцэ́нт; **the Scots Guards** шатла́ндскі гвардзе́йскі полк

**Scottish** [ˈskɒtɪʃ] *adj.* шатла́ндскі; **Scottish dancing** шатла́ндскі та́нец

**scoundrel** [ˈskaʊndrəl] *n. dated* няго́днік, падлю́га; **a regular scoundrel** страшэ́нны няго́днік

**scour**[1] [ˈskaʊə] *n.* чы́стка, мыццё; *Give the pan a good scour.* Добра пачысці патэльню.

**scour**[2] [ˈskaʊə] *v.* скабл́іць, чы́сціць, шарава́ць, скрэ́бці; **scrub and scour** наво́дзіць пара́дак; **scour clean** адмыва́ць дачы́ста

**scour out** [ˌskaʊərˈaʊt] *phr.v.* адскраба́ць, адчышча́ць

**scourge** [skɜːdʒ] *n.* **1.** ка́ра, бяда́, няшча́сце, напа́сць; **the scourge of war** бяда́, вы́кліканая вайно́ю; **the divine scourge** бо́жая ка́ра **2.** *fml* бізу́н, пу́га ♦ **the white scourge** туберкулёз, сухо́ты

**Scouse** [skaʊs] *n. BrE, infml* **1.** ліверпу́лец **2.** ліверпу́льскі дыяле́кт

**scout**[1] [skaʊt] *n.* **1. the Scouts** ска́ўты (*дзіцячая і юнацкая арганізацыя, узнікла ў Англіі*) **a boy scout** бойска́ўт **2.** разве́дчык; разве́дчыца; **a geological scout** геолагаразве́дчык; **a talent scout** шука́льнік та́лентаў **3.** разве́дка; по́шукі; **go on the scout** ісці́ ў разве́дку; **be on the scout for smth.** шука́ць, адшу́кваць што-н. **4.** выве́дніцкі самалёт або́ карабе́ль

**scout**[2] [skaʊt] *v.* **(for)** рабі́ць разве́дку, разве́двацць

**scout around** [ˌskaʊtəˈraʊnd] *phr.v.* **(for)** шука́ць (*каго-н./што-н.*)

**scowl** [skaʊl] *v.* **(at) 1.** сярдзі́та глядзе́ць, кіда́ць зло́сны по́зірк; *He scowled me down.* Ён сярдзіта паглядзеў на мяне. **2.** хму́рыцца, насу́плівацца

**scrabble** [ˈskræbl] *v.* **1.** скрэ́бціся **2.** кара́бкацца; адча́йна змага́цца; **scrabble for a living** бі́цца, як ры́ба аб лёд

**scraggy** [ˈskrægi] *adj. derog.* сухарля́вы, худасо́чны

**scramble** [ˈskræmbl] *v.* **1.** кара́скацца, узбіра́цца; праціска́цца, прабіра́цца; **scramble over a wall** перала́зіць це́раз сцяну́; **scramble among rocks** кара́скацца па ска́лах **2. (for)** змага́цца (*каб захапіць што-н.*); **scramble for one's living** з ця́жкасцямі зарабля́ць на жыццё **3.** бо́ўтаць, узбо́ўтваць; **scramble eggs** рабі́ць яе́чню-баўту́ху

**scrap** [skræp] *n.* **1.** шмато́к, абры́вак; вы́разка (*з газеты, часопіса і да т.п.*); *There is not a scrap of truth in it.* У гэтым няма і долі праўды. **2.** *pl.* **scraps** аб'е́дкі; абрэ́зкі **3.** уты́ль; металало́м; скрап

**scrape**[1] [skreɪp] *n.* **1.** скабле́нне, скрабе́нне; **give a carrot a scrape** скрэ́бці мо́ркву **2.** дра́піна; **get a scrape on one's elbow** абадра́ць ло́каць **3.** *dated* непрые́мная сітуа́цыя, бяда́ ♦ **a scrape of the pen** ро́счырк пяра́; **get into a scrape** тра́піць у не́рат; **get out of scrape** вы́круціцца з непрые́мнага стано́вішча

**scrape**[2] [skreɪp] *v.* **1.** скрэ́бці, скабл́іць; адчышча́ць; **scrape a plate** вы́лізаць усё да кро́плі; **scrape one's chin with a razor** *infml* галі́цца **2. (against/on)** абдзіра́ць; **scrape one's knee against a stone** абдзе́рці кале́на аб ка́мень **3. : scrape a living** канцы́ стачы́ць; **scrape and save** адкла́дваць па капе́ечцы ♦ **scrape home** з ця́жкасцямі дасягну́ць сваёй мэ́ты

**scrape by** [ˌskreɪpˈbaɪ] *phr. v.* сяк-так перабіва́цца; адо́льваць з ця́жкасцямі; *He can scrape by in German.* Ён сяк-так размаўляе па-нямецку.

**scrape off** [ˌskreɪpˈɒf] *phr.v.* саскраба́ць, саскрэ́бваць

**scrape out** [ˌskreɪpˈaʊt] *phr.v.* выскраба́ць, выскрэ́бваць

**scrape through** [ˌskreɪpˈθruː] *phr.v.* праціска́цца, прала́зіць; *She scraped through her exam.* Яна з грахом папалам вытрымала экзамен.

**scrape up** [ˌskreɪpˈʌp] *phr.v.* наскрабáць, наскрэ́бваць; збірáць з ця́жкасцямі; *Can you scrape up enough money for a holiday?* Ты можаш наскрэбці дастаткова грошай на адпачынак?
**scraper** [ˈskreɪpə] *n.* скрабóк; скóбля, струг
**scrap heap** [ˈskræphiːp] *n.* смéтнік, звáлка ♦ **be on the scrap heap** *infml* быць непатрэ́бным; **throw smth. on the scrap heap** *infml* вы́кінуць на смéтнік
**scrap iron** [ˈskræpˌaɪən] *n.* металалóм, жалéзнае ламáчча
**scrap paper** [ˈskræpˌpeɪpə] *n.* макулату́рная папéра, макулату́ра
**scrappy** [ˈskræpi] *adj.* **1.** шматкóвы; лáпікавы **2.** абры́вачны; **a scrappy speech** нясклáдная прамóва; **a scrappy lecture** блы́таная лéкцыя
**scratch¹** [skrætʃ] *n.* **1.** дрáпіна; **without a scratch**; без (а)нія́кай шкóды; без дрáпінкі; *It's only/just a scratch.* Гэта толькі драпіна. **2.** пачу́хванне, дрáпанне **3.** скрып, чы́рканне; **the scratch of the pen on the paper** скрып пярá на папéры **4.** крамзóля; *He writes a miserable scratch.* У яго вельмі кепскі почырк (*неразборлівы*). ♦ **be/come up to scratch** быць на налéжным узрóўні; **start from scratch** пачынáць з нуля́, пачынáць на гóлым мéсцы
**scratch²** [skrætʃ] *v.* **1.** дрáпаць, дрáпацца; чу́хаць, чу́хацца **2.** скрыпéць (*пра пяро*) **3.** чы́ркаць сярні́чкаю ♦ **scratch one's head** *infml* чу́хаць паты́ліцу, заду́мвацца; **scratch my back and I will scratch yours** ≅ лáска за лáску, паслу́га за паслу́гу
**scratch along** [ˌskrætʃəˈlɒŋ] *phr.v.* звóдзіць канцы́ з канцáмі, перабівáцца
**scratch away** [ˌskrætʃəˈweɪ] *phr.v.* выкрэ́сліваць; саскрабáць
**scratch off** [ˌskrætʃˈɒf] *phr.v.* = **scratch away**
**scratch out** [ˌskrætʃˈaʊt] *phr.v.* = **scratch away**
**scratch up** [ˌskrætʃˈʌp] *phr.v.* назбірáць, назапáсіць (*грошай*)
**scrawl** [skrɔːl] *v.* пісáць ху́тка і неразбóрліва; крэ́мзаць, крамзóліць; пісáць як ку́рыца лáпаю
**scream¹** [skriːm] *n.* **1.** віск, ві́скат, прані́злівы крык; **screams of laughter** вы́бух смéху **2.** *infml, dated* пацéха; *He's a perfect scream.* Ён проста пацеха.
**scream²** [skriːm] *v.* вішчáць, верашчáць; крычáць, ускры́кваць; **scream for help** прасі́ць рату́нку; **scream with laughter** смяя́цца да знямóгі
**screaming** [ˈskriːmɪŋ] *adj.* **1.** прані́злівы, рэ́зкі, вісклі́вы, віскатлі́вы **2.** незвычáйны, надзвычáйны; **a screaming success** ашаламля́льны пóспех
**screech** [skriːtʃ] *v.* **(with)** хры́пла абó віскли́ва крычáць; **screech with pain** лямантавáць ад бóлю; *The owl screeched.* Сава завухкала. *The brakes screeched, and the car suddenly stopped.* Тармазы зарыпелі, і машына рэзка спынілася.
**screen¹** [skriːn] *n.* **1.** шы́рма, заслóна; шчыт; **a folding screen** складнáя шы́рма; **a smoke screen** дымавáя заслóна; **under the screen of night** пад начны́м пóкрывам; **put on a screen of indifference** зрабіць абыя́кавы вы́гляд **2.** экрáн; кінó; **a thin screen** плóскі экрáн; **put a play on the screen** экранізавáць п'éсу; **show a film on the screen** выпускáць фільм на экрáн
**screen²** [skriːn] *v.* **1. (from)** засланя́ць, загарóджваць, прыкрывáць; абараня́ць; *The sun was screened by clouds.* Хмары засланілі сонца. **2.** хавáць, утóйваць; **screen smb.'s faults** утóйваць чыé-н. памы́лкі **3.** экранізавáць; пакáзваць фільм на экрáне; здымáцца ў кінó; **screen well** мець пóспех у кінó **4.** прасéйваць (*пясок*) **5.** правярáць; *All applicants are screened for security.* Усіх, хто падаў заяву, правяраюць на добранадзейнасць.
**Screen Actors Guild** [ˈskriːnæktəzˌgɪld] *n.* Гі́льдыя кінаакцёраў (*у ЗША*)
**screening** [ˈskriːnɪŋ] *n.* **1.** пакáз фі́льма абó тэлепраграмы **2.** адбóр, правéрка; **a screening procedure** працэду́ра правéркі
**screenplay** [ˈskriːnpleɪ] *n.* (кіна)сцэнáрый
**screen test** [ˈskriːntest] *n.* прóба на рóлю
**screen-wiper** [ˈskriːnˌwaɪpə] *n.* шклоачышчáльнік (*ветравога шкла*), двóрнік (*аўтамабіля*)
**screenwriter** [ˈskriːnˌraɪtə] *n.* сцэнары́ст; кінадрамату́рг; тэледрамату́рг
**screw¹** [skruː] *n.* **1.** шру́ба; гáйка; **tighten the screw** заціскáць, закру́чваць гáйку **2.** паварóт шру́бы; адкру́чванне, адшрубóўванне; **give a screw** круці́ць, шрубавáць ♦ **he has a screw loose** у яго клёпкі нестаé; **put the screw(s) on (smb.)** прымушáць, прыціскáць (каго-н.)
**screw²** [skruː] *v.* круці́ць, шрубавáць; **screw home** зашрубóўваць да канцá ♦ **screw smth. out of smb.** вымагáць што-н. у кагó-н.; **screw into smb.'s favour** улéзці да кагó-н. у давéр; **have one's head screwed on the right way** ≅ мець галаву́ на плячáх
**screw off** [ˌskruːˈɒf] *phr.v.* адкру́чваць; адкру́чвацца; адшрубóўваць; адшрубóўвацца
**screw on** [ˌskruːˈɒn] *phr.v.* прыкру́чваць, прышрубóўваць

**screw up** [ˌskruːˈʌp] *phr.v.* **1.** закру́чваць, зашрубо́ўваць **2.** змо́ршчваць (*твар*) ♦ **screw up one's eyes** прыжму́рвацца; **screw up one's courage** набра́цца адва́гі

**screwdriver** [ˈskruːˌdraɪvə] *n.* адвёртка

**scribble**[1] [ˈskrɪbl] *n.* крамзо́лі; мазня́, мазані́на

**scribble**[2] [ˈskrɪbl] *v.* піса́ць неакура́тна, піса́ць спяша́ючыся; крэ́мзаць, крамзо́ліць, чы́ркаць

**scribbler** [ˈskrɪblə] *n. iron.* піса́ка, пэ́цкаль

**scribbling block** [ˈskrɪblɪŋˌblɒk] *n.* ната́тнік

**scrimp** [skrɪmp] *v.* экано́міць; **scrimp and save** скупі́цца; ураза́ць, урэ́зваць; *We had to scrimp and save to pay the bills*. Нам давялося эканоміць на ўсім, каб заплаціць па рахунку.

**script** [skrɪpt] *n.* **1.** сцэнары́й **2.** ру́капіс **3.** шрыфт; **Gothic script** гаты́чны шрыфт; **Cyrillic script** кіры́ліца; **in script** напі́санае ад рукі́; **in the phonetic script** у фанеты́чнай транскры́пцыі **3.** *comput.* скрыпт

**scripture** [ˈskrɪptʃə] *n.* **: the (Holy) Scripture** Бі́блія, Свяшчэ́ннае Пі́санне; **the Muslim scriptures** Кара́н

**scriptwriter** [ˈskrɪptˌraɪtə] *n.* сцэнары́ст; кінадрамату́рг; а́ўтар сцэна́рыя

**scrofula** [ˈskrɒfjʊlə] *n. med.* залату́ха

**scroll**[1] [skrəʊl] *n.* скру́так папе́ры

**scroll**[2] [skrəʊl] *v. comput.* пракру́чваць (*даныя на экране*)

**Scrooge** [skruːdʒ] *n. infml* скна́ра, жмі́нда

**scrounge** [skraʊndʒ] *v. infml, derog.* выпро́шваць, жабрава́ць

**scrub**[1] [skrʌb] *n.* **1.** кусто́ўе, падле́сак; мясцо́васць, заро́слая кусто́ўем **2.** *AustralE* глуш, глухі́ куто́к

**scrub**[2] [skrʌb] *n.* чы́стка, шарава́нне; **give smth. a good scrub** до́бра адшарава́ць што-н.

**scrub**[3] [skrʌb] *v.* **1.** чы́сціць; скрэ́бці; шарава́ць; **scrub the floor** до́бра мыць падло́гу **2.** це́рці, расціра́ць; **scrub oneself with a towel** расціра́цца ручніко́м

**scrub away** [ˌskrʌbəˈweɪ] *phr.v.* адчышча́ць, адшаро́ўваць; адмыва́ць, адскраба́ць

**scrub down** [ˌskrʌbˈdaʊn] *phr.v.* **:** *She scrubbed down the walls.* Яна вымыла сцены.

**scrub off** [ˌskrʌbˈɒf] *phr.v.* = **scrub away**

**scrub out** [ˌskrʌbˈaʊt] *phr.v.* **1.** выскраба́ць, вычышча́ць **2.** выкрэ́сліваць (*з памяці*); *Scrub out your vacation plans*. Забудзь пра планы на адпачынак.

**scrubbing brush** [ˈskrʌbɪŋˌbrʌʃ] *n.* жо́рсткая шчо́тка (*для падлогі*)

**scrubby** [ˈskrʌbi] *adj.* ні́зкі, нізкаро́слы; **scrubby trees** нізкаро́слыя дрэ́вы

**scruff** [skrʌf] *n.* загры́вак; ка́рак ♦ **take smb. by the scruff of the neck** узя́ць каго́-н. за ка́рак

**scruffy** [ˈskrʌfi] *adj. infml* мурза́ты, бру́дны, неаха́йны

**scruple** [ˈskruːpl] *n.* сумне́нне; хіста́нне, вага́нне; **do smth. without scruple** рабі́ць што-н. не заду́мваючыся; **have scruples about doing smth.** саро́мецца рабі́ць што-н.

**scrupulous** [ˈskruːpjələs] *adj.* **1. (about)** скрупулёзны; дакла́дны да дро́бязей; стара́нны, пі́льны; **with scrupulous care** з педанты́чнай дакла́днасцю **2. (in)** сумле́нны, прысто́йны; **scrupulous honesty** бездако́рная сумле́ннасць; *He is not too scrupulous*. Ён не вызначаецца асобай прыстойнасцю.

**scrutinize,** *BrE* **-ise** [ˈskruːtɪnaɪz] *v.* пі́льна разгля́д(в)аць; вывуча́ць, дасле́даваць; **scrutinize a document** вывуча́ць дакуме́нт

**scrutiny** [ˈskruːtəni] *n. fml* пі́льны разгля́д; кры-ты́чны разбо́р; **a glance of scrutiny** дапы́тлівы по́зірк; **a scrutiny of the proposal** пі́льнае вывучэ́нне прапано́вы; **a close scrutiny of the election results** пі́льная праве́рка вы́нікаў галасава́ння

**scud** [skʌd] *v. lit.* не́сціся, імклі́ва ру́хацца; бе́гчы, ляце́ць; *A ship is scudding before the breeze*. Вецер гоніць карабель.

**scuffle** [ˈskʌfl] *n.* бо́йка; *Scuffles broke out between police and demonstrators.* Паміж паліцыяй і дэманстрантамі пачаліся бойкі.

**sculpt** [skʌlpt] *v.* ляпі́ць, высяка́ць, выраза́ць; надава́ць фо́рму

**sculptor** [ˈskʌlptə] *n.* ску́льптар, разьбя́р

**sculptress** [ˈskʌlptrəs] *n.* ску́льптарка, разьбя́рка

**sculpture**[1] [ˈskʌlptʃə] *n.* скульпту́ра; **a work of sculpture** скульпту́рны твор; **a sculpture in wood** скульпту́ра з дрэва

**sculpture**[2] [ˈskʌlptʃə] *v.* рабі́ць скульпту́ру, ляпі́ць, высяка́ць (*на мармуры, дрэве і да т.п.*); **sculpture a statue in stone** высяка́ць ста́тую з ка́меню

**scum** [skʌm] *n.* **1.** пе́на, на́кіп, шумаві́нне **2.** *infml* агі́дны чалаве́к, мярзо́тнік; **the scum of the earth** падо́нкі (*грамадства*), усякі зброд

**scurf** [skɜːf] *n.* пе́рхаць

**scurry** [ˈskʌri] *v.* мітуслі́ва хадзі́ць, мітусі́цца, бе́гчы; **scurry for the door** кі́нуцца да дзвярэ́й; **hurry and scurry about the room** насі́цца па пако́і

**scurvy** [ˈskɜːvi] *v. med.* цынга́

**Scylla** [ˈsɪlə] *v. myth.* Сцы́ла ♦ **between Scylla and Charybdis** памі́ж Сцы́лай і Хары́бдай; ≅ памі́ж двух агнёў

**scythe**[1] [saɪð] *n.* каса́ (*прылада*)

**scythe**[2] [saɪð] *v.* касі́ць; **newly scythed grass** то́лькі што ско́шаная трава́

**SDP** [ˌes dɪːˈpiː] (*скар. ад* **Social Democratic Party**) СДП, Сацыя́л-дэмакраты́чная па́ртыя (*у Вялікабрытаніі*)

**SE** (*пісьмовае скар. ад* **South-East, South-Eastern**) паўднёвы ўсхо́д, паўднёва-ўсхо́дні

**sea** [siː] *n.* **1.** мо́ра; **the high sea(s)** адкры́тае мо́ра; **travel by sea** падаро́жнічаць мо́рам **2.** паве́рхня мо́ра, хва́лі (*мора*); **a heavy/wild sea** бурлі́вае мо́ра; **a light sea** спако́йнае мо́ра **3. (of)** вялі́кая ко́лькасць (*чаго-н.*); **a sea of troubles** бе́зліч турбо́т ♦ **at sea** у мо́ры; **be at sea** не ве́даць, што рабі́ць, што сказа́ць і да т.п.; **go to sea** стаць марако́м; **put (out) to sea** пуска́цца ў пла́ванне; **the seven seas** усе́ мо́ры і акія́ны свету; **between the devil and the deep blue sea** ≅ памі́ж двух агнёў

**sea air** [ˌsiːˈeə] *n.* марско́е паве́тра

**sea bed** [ˈsiːbed] *n.* **the sea bed** марско́е дно

**seaboard** [ˈsiːbɔːd] *n.* марско́е ўзбярэ́жжа, прымо́р'е; **Australia's eastern seaboard** усхо́дняя ча́стка берагоў Аўстра́ліі

**seaborne** [ˈsiːbɔːn] *adj.* **: seaborne trade** марскі́ га́ндаль

**sea breeze** [ˈsiːbriːz] *n.* ве́цер з мо́ра, марскі́ брыз

**seafaring** [ˈsiːfeərɪŋ] *adj.* марахо́дны; **a seafaring man** мара́к; **a seafaring nation** марска́я дзяржа́ва; **a seafaring life** жыццё мара́ка

**seagoing** [ˈsiːgəʊɪŋ] *adj.* далёкага пла́вання; **a seagoing ship** акія́нскае су́дна; **seagoing trade** марскі́ га́ндаль

**seagull** [ˈsiːgʌl] *n. zool.* ча́йка (*марская*)

**seal¹** [siːl] *n. zool.* цюле́нь

**seal²** [siːl] *n.* **1.** пяча́тка, пяча́ць, кляймо́; **a lead seal** пло́мба (*на пасылцы*); **an impression of a seal** адбі́так пяча́ткі; **place under seals** апяча́тваць **2.** адбі́так, след; **the seal of fate** знак лёсу **3.** знак, до́каз; **a seal of approval** знак адабрэ́ння **4.** урачы́стае абяца́нне, заро́к; абавя́зак ♦ **a seal upon one's lips** пяча́ць маўча́ння; **a seal of love** *poet.* пацалу́нак

**seal³** [siːl] *v.* **1.** ста́віць пяча́тку; пламбава́ць, апяча́тваць **2.** запяча́тваць (*канверт*), скле́йваць, закле́йваць; закрыва́ць герметы́чна **3.** наклада́ць пяча́тку, адбі́так **4.** *fml* канчатко́ва выраша́ць; **seal an agreement** зацвярджа́ць пагадне́нне; **seal smb.'s fate** выраша́ць чый-н. лёс

**sea level** [ˈsiːˌlevl] *n.* узро́вень мо́ра

**sealing wax** [ˈsiːlɪŋˌwæks] *n.* сургу́ч

**seam** [siːm] *n.* **1.** шво; **a flat seam** шчы́льнае шво; **a closed seam** патайно́е шво **2.** праслойка, пласт, слой (*у гліне, скале і да т.п.*) **3.** рубе́ц, шрам; **the seam of an old wound** рубе́ц ад старо́й ра́ны ♦ **be falling/coming apart at the seams** *infml* разла́зіцца па швах

**seaman** [ˈsiːmən] *n.* (*pl.* **-men**) матро́с, мара́к

**seamstress** [ˈsiːmstrɪs] *n. dated* шва́чка, белашва́чка

**seamy** [ˈsiːmi] *adj.* **: ♦ the seamy side of life** другі́ бок жыцця́

**seaplane** [ˈsiːpleɪn] *n.* гідрапла́н

**seaport** [ˈsiːpɔːt] *n.* марскі́ порт

**search¹** [sɜːtʃ] *n.* **1. (for)** по́шукі; **the search for happiness** пяго́ня за шча́сцем **2.** во́быск; **house-to-house searches** пава́льны перятру́с; **in search of smb./smth.** у по́шуках каго́-н./чаго́-н.; *He is in search of employment*. Ён шукае працу.

**search²** [sɜːtʃ] *v.* **(for, after) 1.** шука́ць, адшу́кваць; **search after truth** імкну́цца да пра́ўды **2.** абшу́кваць; рабі́ць перятру́с **3.** пі́льна разгля́дваць; вывуча́ць, дасле́даваць; **search one's heart/conscience** *fml* аналізава́ць сваé пачу́цці, прыслухо́ўвацца да свайго́ сумле́ння ♦ **search me!** *infml* адку́ль мне ве́даць!

**search out** [ˌsɜːtʃˈaʊt] *phr. v.* адшука́ць, знайсці́

**searching** [ˈsɜːtʃɪŋ] *adj.* **1.** дапы́тлівы; выпрабава́льны; **give a searching look/glance** дапы́тліва паглядзе́ць **2.** пі́льны, глыбо́кі; **put smb. through a searching examination** падрабя́зна распы́тваць каго́-н.

**searchlight** [ˈsɜːtʃlaɪt] *n.* пражэ́ктар

**search party** [ˈsɜːtʃˌpɑːti] *n.* по́шукавая гру́па, по́шукавы атра́д

**search warrant** [ˈsɜːtʃˌwɒrənt] *n. law* о́рдэр на во́быск/перятру́с

**seascape** [ˈsiːskeɪp] *n.* марскі́ краяві́д; мары́на (*жывапіс*)

**seashore** [ˈsiːʃɔː] *n.* марскі́ бе́раг, марско́е ўзбярэ́жжа; **go to the seashore** е́хаць на мо́ра

**seasick** [ˈsiːsɪk] *adj.* **: be seasick** паку́таваць на марску́ю хваро́бу; *We were all seasick.* Нас усіх загайдала.

**seasickness** [ˈsiːsɪknəs] *n.* марска́я хваро́ба

**seaside** [ˈsiːsaɪd] *n.* марскі́ бе́раг; узмо́р'е, узбярэ́жжа; **a seaside resort** марскі́ куро́рт; **at/by the seaside** на мо́ры, на марскі́м узбярэ́жжы; **go to the seaside** е́хаць на мо́ра

**season¹** [ˈsiːzn] *n.* **1.** пара́ (*года*); **the (four) seasons** чаты́ры пары́ го́да **2.** сезо́н, час, перы́яд; **the strawberry season** час, калі́ паспява́юць труска́лкі; **the busy season** гара́чая пара́; **the hunting season** паляўні́чы сезо́н; **in the holiday season** на кані́кулах, у час адпачы́нку; **the off/dead/dull season** мёртвы сезо́н; **the London season** ло́нданскі (све́цкі) сезо́н (*травень – ліпень*) ♦ **in (good) season** своечасо́ва; **advice in season** своечасо́вая пара́да; **out of season** не ў пару́, нясвоечасо́ва; **a remark out of season** недарэ́чная заўва́га; **in good season**

папяру́дне, **season's greetings** каля́дныя віншава́нні

**season²** [ˈsiːzn] *v.* **1.** прыпраўля́ць, надава́ць смак; **season meat with garlic** кла́сці ў мя́са часно́к; **season conversation with wit** ажыўля́ць размо́ву дасці́пнасцю **2.** сушы́ць; вытры́млiваць; **season timber** сушы́ць лесаматэрыя́л; **season wine** вытры́млiваць віно́

**seasonal** [ˈsiːzənl] *adj.* сезо́нны; часо́вы; **seasonal workers** сезо́нныя рабо́чыя; **seasonal affective disorder** сезо́ннае недамага́нне

**seasoned** [ˈsiːznd] *adj.* **1.** загартава́ны; **a seasoned traveller** загартава́ны падаро́жнік **2.** прыпра́ўлены (*пра ежу*); **highly seasoned dishes** піка́нтныя стра́вы

**seasoning** [ˈsiːzənɪŋ] *n.* прыпра́ва, спе́цыі; **add seasoning** прыпраўля́ць спе́цыямі (*стравы*)

**season ticket** [ˈsiːznˌtɪkɪt] *n.* **1.** сезо́нны біле́т **2.** абанеме́нт, квіто́к; **a season ticket holder** улада́льнік сезо́ннага біле́та

**seat¹** [siːt] *n.* **1.** ме́сца для сядзе́ння; сядзе́нне; **a car with four seats** чатырохме́сная машы́на; **take one's seat** сяда́ць, займа́ць сваё ме́сца; **keep one's seat** не ўстава́ць з ме́сца **2.** ме́сца (*у тэатры*); біле́т; **a seat attendant** білецёр (*у тэатры*); **book/reserve a seat** зака́зваць біле́т папяру́дне (*у тэатр*); *All seats are sold.* Усе білеты прададзены. **3.** *fml* ме́сца ў парла́менце; **have a seat in Parliament** быць чле́нам парла́мента; **lose one's seat** цярпе́ць паражэ́нне на вы́барах **4.** месцазнахо́джанне; цэнтр; сядзі́ба; асяро́дак; **a county seat** адміністрацы́йны цэнтр гра́фства (*у Вялікабрытаніі*) або́ акру́гі (*у ЗША*); **the seat of trouble** прычы́на бяды́, ко́рань зла; **take a back seat** займа́ць нязна́чную паса́ду, сці́плае стано́вішча; **the seat of war** тэа́тр вае́нных дзе́янняў; ача́г вайны́

**seat²** [siːt] *v.* **1.** *fml* саджа́ць, уса́джваць; *She seated herself on the sofa.* Яна ўселася на канапе; *Please, be seated.* Сядайце, калі ласка. **2.** змяшча́ць, умяшча́ць; *This hall seats 500.* Гэтая зала на 500 чалавек.

**seat belt** [ˈsiːtˌbelt] *n.* прывязны́ рэ́мень; рэ́мень бяспе́кі; *Fasten your seat belts!* Зашпіліце рамяні!

**seating** [ˈsiːtɪŋ] *n.* **1.** забеспячэ́нне ме́сцамі для сядзе́ння **2.** ме́сцы для сядзе́ння; *The theatre has seating for 600 people.* Тэатр разлічаны на 600 месцаў.

**sea urchin** [ˈsiːˌɜːtʃɪn] *n. zool.* марскі́ во́жык

**seaweed** [ˈsiːwiːd] *n.* марска́я во́дарасць

**secateurs** [ˌsekəˈtɜːz] *n. pl. BrE* сека́тар, садо́выя нажні́цы

**seclude** [sɪˈkluːd] *v. fml* **(from)** аддзяля́ць, ізалява́ць; **seclude oneself** адасабля́цца

**seclusion** [sɪˈkluːʒn] *n.* само́та, адзіно́та; адасо́бленасць, ізаля́цыя; **live in seclusion** жыць у адзіно́це, жыць адзіно́ка

**second¹** [ˈsekənd] *n.* секу́нда ♦ **just a second** (адну́) хвілі́нку

**second²** [ˈsekənd] *n.* **1.** другі́ клас (*у самалёце, на параходзе і да т.п.*); **go second** е́хаць другі́м кла́сам **2.** *звыч. pl.* **seconds** тава́р друго́га гату́нку; *These plates are seconds.* Гэтыя талеркі ніжэйшага гатунку. **3.** секунда́нт **4.** *infml* друго́е (*страва*); *What shall we take for the second?* Што возьмем на другое?

**second³** [ˈsekənd] *num., adj.* **1.** другі́; **World War II (the Second)** Друга́я сусве́тная вайна́ **2.** дадатко́вы, паўто́рны; *Will you have a second cup of tea?* Вам яшчэ адзін кубачак гарбаты? **3.** дру́гасны ♦ **at second hand** з другі́х рук, праз пасяру́дніцтва; **be second to smb. in smth.** саступа́ць каму́-н. у чым-н.; **second to none** не мець сабе́ ро́ўных; **in the second place** па-друго́е

**second⁴** [ˈsekənd] *v.* **1.** дапамага́ць, падтры́млiваць; **second a motion** выступа́ць у падтры́мку прапано́вы; **second words with deeds** пацвярджа́ць сло́вы спра́вамі **2.** быць секунда́нтам

**secondary** [ˈsekəndri] *adj.* **1.** другара́дны, дру́гасны, пабо́чны; **a secondary stress** *ling.* пабо́чны на́ціск; *This question is of secondary importance.* Гэтае пытанне другаснай важнасці. **2.** сярэ́дні (*пра адукацыю*); **a secondary school/education** сярэ́дняя шко́ла/адука́цыя

**second best** [ˌsekəndˈbest] *adj.* друго́га гату́нку

**second-class** [ˌsekəndˈklɑːs] *adj.* другара́дны, другаразра́дны; другакла́сны, друго́га кла́са (*пра вагон, білет і да т.п.*); **second-class mail** по́шта друго́га кла́са (*па зніжаным тарыфе, у Вялікабрытаніі і Канадзе*)

**Second Coming** [ˌsekəndˈkʌmɪŋ] *n.* **the Second Coming** *eccl.* Друго́е Прышэ́сце (*Хрыста*)

**second hand¹** [ˈsekəndˌhænd] *n.* секу́ндная стрэ́лка

**second-hand²** [ˌsekəndˈhænd] *adj., adv.* **1.** ужыва́ны (*пра рэчы*); a **second-hand shop/bookshop** кра́ма ўжыва́ных рэ́чаў/букіністы́чная кра́ма **2.** з другі́х рук (*пра інфармацыю*); **get news second-hand** атры́млiваць наві́ны з другі́х рук

**second language** [ˌsekəndˈlæŋgwɪdʒ] *n.* друга́я мо́ва

**secondly** [ˈsekəndli] *adv.* па-друго́е; *Firstly, the coat is too expensive, and secondly, it's ugly.* Па-першае, паліто вельмі дарагое, а па-другое, непрыгожае.

**second nature** [ˌsekəndˈneɪtʃə] *n.* другáя нату́ра ♦ **habit is second nature** звы́чка – другáя нату́ра

**second person** [ˌsekəndˈpɜːsn] *n.* **the second person** *ling.* другáя асóба займéнніка

**second reading** [ˌsekəndˈriːdɪŋ] *n. joc.* другóе чытáнне (*законапраекта ў парламенце*)

**second thought** [ˌsekəndˈθɔːt] *n.* ду́мка, што пры́йшла ў галаву́ пасля́ развáг; пераацэ́нка, перагля́д ♦ **on second thoughts** узвáжыўшы ўсё ячшэ́ раз

**secrecy** [ˈsiːkrəsi] *n.* **1.** сакрэ́тнасць; тáйна, таямні́ца; **keep in secrecy** трымáць у тáйне, пад сакрэ́там **2.** скры́тнасць

**secret¹** [ˈsiːkrət] *n.* **1.** сакрэ́т, тáйна; **be in the secret** вéдаць тáйну; **make a secret of smth.** утóйваць, скрывáць што-н. **2.** загáдка, таямні́ца; **secrets of the past** таямні́цы міну́лага ♦ **in secret** патаéмна

**secret²** [ˈsiːkrət] *adj.* **1.** сакрэ́тны, невядóмы; тáйны, таямні́чы; **a secret marriage** тáйны шлюб; **keep smth. secret** трымáць што-н. у сакрэ́це/таямні́цы; утóйваць што-н. **2.** скры́ты, патаéмны

**secret agent** [ˌsiːkrətˈeɪdʒənt] *n.* тáйны агéнт

**secretarial** [ˌsekrəˈteəriəl] *adj.* сакратáрскі; **a secretarial college** калéдж па падрыхтóўцы сакратарóў

**secretariat** [ˌsekrəˈteəriət] *n.* **1.** сакратáрства, пасáда сакратарá **2.** сакратарыя́т; **the UN Secretariat** Сакратарыя́т ААН

**secretary** [ˈsekrətri] *n.* сакратáр; сакратáрка; **the Foreign Secretary** міні́стр замéжных спраў (*у Вялікабрытаніі*); **the Secretary of the Treasury** міні́стр фінáнсаў

**Secretary General** [ˌsekrətriˈgenərəl] *n.* генерáльны сакратáр; **U.N. Secretary General** генерáльны сакратáр ААН

**Secretary of State** [ˌsekrətri əvˈsteɪt] *n.* **1.** міні́стр; **the Secretary of State for Defence** міні́стр абарóны **2.** міні́стр замéжных спраў (*у ЗША*)

**secrete** [sɪˈkriːt] *v.* **1.** *med.* выдзяля́ць (*сліну*) **2.** *fml* хавáць, прыкрывáць, утóйваць

**secretive** [ˈsiːkrətɪv] *adj.* **1. (about)** скры́тны, няшчы́ры; патаéмны; *He is secretive about his plans.* Ён утойвае свае планы. **2.** *anat.* выдзяля́льны (*пра залозу*)

**secret service** [ˌsiːkrɪtˈsɜːvɪs] *n. mil.* слу́жба агенту́рнай развéдкі і контрразвéдкі; сакрэ́тная слу́жба; выве́дка

**sect** [sekt] *n.* сéкта

**sectarian** [sekˈteəriən] *n.* сектáнт; сектáнтка

**section** [ˈsekʃn] *n.* **1.** чáстка, адрэ́зак, дóлька; **cut into sections** разразáць на чáсткі **2.** сéкцыя (*у розн. значэннях*); дэтáль **3.** раздзéл (*газеты, часопіса і да т.п.*); **a sports section** раздзéл спóрту (*у газеце*) **4**. *AmE* раён, квартáл (*у горадзе*) **5**. парáграф (*у тэксце*) **6.** сячэ́нне, разрэ́з, прóфіль **7**. *mil.* аддзялéнне

**sectional** [ˈsektʃənl] *adj.* **1.** секцы́йны; разбóрны, разабрáны (*на часткі*) **2.** групавы́; **sectional interests** групавы́я інтарэ́сы

**sector** [ˈsektə] *n.* чáстка, сéктар (*у розных знач.*); **the private sector** прывáтны сéктар; **the service sector** сéктар абслугóўвання

**secular** [ˈsekjələ] *adj.* **1.** свéцкі, нецаркóўны; **secular concerns** зямны́я клóпаты; **secular music** свéцкая му́зыка **2.** неманáскі; **secular clergy** бéлае духавéнства

**secure¹** [sɪˈkjʊə] *adj.* **1. (about, of)** спакóйны, упэ́ўнены; **feel secure about the future** адчувáць упэ́ўненасць у бу́дучыні; **be secure of success** быць упэ́ўненым у пóспеху **2.** гарантавáны, надзéйны; **have a secure job** мець гарантавáную прáцу **3.** трывáлы, мóцны; надзéйны; *Is this ladder secure?* Гэтыя ўсходкі моцныя? **4. (against/from)** бяспéчны; ахавáны (ад); *Are we secure from attacks here?* Нам атакі не пагражаюць?

**secure²** [sɪˈkjʊə] *v.* **1.** замацóўваць, прымацóўваць; *I secured the windows.* Я шчыльна зачыніў вокны. **2. (against/from)** надзéйна ахóўваць, забяспéчваць гарáнтыю **3.** *fml* даставáць, атры́мліваць; забяспéчвацца; *I secured tickets for the play.* Я дастаў білеты на п’есу.

**security** [sɪˈkjʊərəti] *n.* **1. (of)** упэ́ўненасць; **have the security of a guaranteed pension** быць упэ́ўненым у гарантавáнай пéнсіі **2.** бяспéка; **national security** нацыянáльная бяспéка; **security forces** óрганы бяспéкі **3.** гарáнтыя, залóг; пару́ка; ахóва; **social security** сацыя́льнае забеспячэ́нне; **lend money on security** пазычáць грóшы пад гарáнтыю **4.** *pl.* **securities** *finance* каштóўныя папéры, вэ́ксалі, аблігáцыі

**Security Council** [sɪˈkjʊərətiˌkaʊnsɪl] *n.* **the Security Council** Савéт/Рáда Бяспéкі (*пры ААН*)

**security risk** [sɪˈkjʊərətiˌrɪsk] *n.* паліты́чна ненадзéйны чалавéк, падазрóная асóба

**sedan** [sɪˈdæn] *n. AmE* седáн (*аўтамабіль*)

**sedate** [sɪˈdeɪt] *adj.* павáжны, ураўнавáжаны, спакóйны, стры́маны

**sedative** [ˈsedətɪv] *n. med.* заспакая́льны абó болесуцішáльны срóдак

**sedge** [sedʒ] *n. bot.* асакá

**sediment** [ˈsedɪmənt] *n.* **1.** асáдак, адстóй, гу́шча **2.** *geol.* асáдкавая парóда, адклáды, нанóс

**sedimentary** [ˌsedɪˈmentri] *adj. geol.* асáдкавы; **sedimentary rocks** асáдкавыя скáлы

**seduce** [sɪˈdjuːs] *v.* спакушáць; **seduce smb. into smoking** прывучáць кагó-н. курыць

**seducer** [sɪˈdjuːsə] *n.* спакýснік; спакýсніца

**seductive** [sɪˈdʌktɪv] *adj.* прынáдны, спакýслівы, спакушáльны

**see**[1] [siː] *n. eccl.* пасáда біскупа; біскупства

**see**[2] [siː] *v.* **1.** бáчыць, глядзéць; **see after smth.** наглядáць за чым-н. *She was seen to enter the house.* Бачылі, як яна ўвайшла ў дом. **2.** сустракáць; сустракáцца; навéдваць; *You ought to see the doctor.* Табе трэба наведацца да лекара. **3.** разумéць, вéдаць, усведамляць; уяўляць; **I see!** Зразумéла!; **You see...,** Вéдаеце...; *Let me see.* Дай падумаць. **4.** зазнавáць, звéдваць*;* *He has seen a great deal in his long life.* Ён усяго пабачыў за сваё доўгае жыццё. **5. (to, about)** клапаціцца, паклапаціцца; *I'll see about lunch.* Я паклапачуся пра ланч. **6.** правóдзіць; **see smb. home** правóдзіць кагó-н. дадóму; **see for oneself** перакóнвацца ўвачавідкі; убáчыць на сваé вóчы; **see a lot/nothing, etc. of smb. :** *I've seen a lot of him recently*. Апошнім часам я часта бачу яго. ♦ **see you/be seeing you!** пабáчымся!; **as far as I can see** накóлькі я разумéю; **as we see it** на наш пóгляд; **see into a matter** унікáць (*у што-н.*), вывучáць пытáнне; **see to smth.** разглядáць што-н.

**see in** [ˌsiːˈɪn] *phr.v.* сустракáць; **see the New Year in** сустракáць Нóвы год

**see off** [ˌsiːˈɒf] *phr.v.* правóдзіць тагó, хто ад'язджáе

**see through** [ˌsiːˈθruː] *phr v.* **: see smth. through** давóдзіць штó-н. да канцá; **see smb. through** памагáць камý-н. давéсці спрáву да канцá

**seed**[1] [siːd] *n.* **1.** сéмя; насéнне; зéрне; **the seeds of smth.** крыніца, прычына, пачáтак чагó-н. **2.** *bibl.* дзéці, нашчáдкі ♦ **go/run to seed** апускáцца; занядбáць сябé; **sow the seeds of strife** сéяць разлáд

**seed**[2] [siːd] *v.* сéяць, засявáць; **seed clouds** штýчна выклікáць дождж

**seed bed** [ˈsiːdbed] *n.* парнік

**seedling** [ˈsiːdlɪŋ] *n. agr.* расáда; сáджанец, флянс; сéянец

**seek** [siːk] *v.* **(sought)** *fml* **1. (for/after)** шукáць, адшýкваць **2.** дасягáць, дамагáцца **3.** прасіць; звяртáцца (*з чым-н.*); **seek help from smb.** прасіць у кагó-н. дапамóгі ♦ **seek one's fortune** *lit.* шукáць шчáсця

**seek out** [ˌsiːkˈaʊt] *phr.v.* адшýкваць

**seeker** [ˈsiːkə] *n.* шукáльнік; шукáльніца; **a job seeker** шукáльнік прáцы; шукáльніца прáцы

**seem** [siːm] *v.* **1.** здавáцца, уяўляцца: *It seems to me that...* (Мне) здаецца, што…; *She seems to be right.* Відаць, яна мае рацыю. **2.** (*ужываецца як дзеяслоў-звязка*); *She seems happy.* Яна выглядае шчаслівай.

**seemingly** [ˈsiːmɪŋli] *adv.* відáць, як відáць; мáбыць; мýсіць; *They were seemingly unaware of the decision*. Яны, відаць, не ведалі пра рашэнне.

**seen** [siːn] *p.p.* → **see**

**seep** [siːp] *v.* працякáць, прасóчвацца; пранікáць, распаўсюджвацца (*пра чуткі, навіны і да т.п.*)

**seepage** [ˈsiːpɪdʒ] *n.* прасóчванне, уцéчка, фільтрáцыя, інфільтрáцыя

**seesaw**[1] [ˈsiːsɔː] *n.* арэлі, гýшкалка (*дошка*)

**seesaw**[2] [ˈsiːsɔː] *v.* гýшкацца; гóйдацца; **seesawing prices** змéнлівыя цэны

**seethe** [siːð] *v.* **1.** *fml* кіпéць, пéніцца, бурліць; *The streets are seething with people.* На вуліцах поўна людзей. **2. (with)** быць ахóпленым (*якім-н. пачуццём*); **seethe with anger** кіпéць ад злóсці

**segment**[1] [ˈsegmənt] *n.* **1.** *math.* сегмéнт, адрэзак **2.** чáстка, кавáлак; дóлька (*апельсіна, яблыка і да т.п.*) **3.** *ling*. сегмéнт

**segment**[2] [segˈment] *v.* дзяліць на чáсткі, кавáлкі, дóлі да т.п.

**segmental** [segˈmentl] *adj. ling*. сегмéнтны; **the segmental level** сегмéнтны ўзрóвень (*фанетыкі*)

**segregate** [ˈsegrɪgeɪt] *v.* аддзяляць, ізалявáць; *In our school the sexes are segregated.* У нашай школе раздзельнае навучанне.

**segregation** [ˌsegrɪˈgeɪʃn] *n.* **: racial segregation** рáсавая сегрэгáцыя

**seismic** [ˈsaɪzmɪk] *adj.* сейсмічны; **seismic waves** сейсмічныя хвáлі

**seize** [siːz] *v.* **1. (on/upon)** хапáць; хапáцца; схапіць; схапіцца; **seize power** захапіць улáду; **seize hold of smth.** ухапіцца за што-н. **2.** выкарыстóўваць; *Seize* (*on*) *any opportunity you can.* Хапайся за любую магчымасць. **3.** захóпліваць (*сілай*); ахóпліваць; *He was seized with terror.* Яго апанаваў жах.

**seize up** [ˌsiːzˈʌp] *phr. v*. заядáць (*пра матор*)

**seizure** [ˈsiːʒə] *n.* **1.** захóп; канфіскáцыя **2.** *med.* прыпáдак, прыступ (*хваробы*); **a heart seizure** сардэчны прыступ

**seldom** [ˈseldəm] *adv.* рэдка, мáла калі

**select**[1] [sɪˈlekt] *adj.* **1.** адабрáны, падабрáны; **a select blend of tobaccos** тытýнь выбраных гатýнкаў **2.** выбраны; выключны; **a select group of top scientists** грýпа найлéпшых навукóўцаў

**select²** [sɪˈlekt] *v.* выбіра́ць, адбіра́ць, падбіра́ць; **selected works** вы́браныя тво́ры; *He was selected as a team leader.* Яго выбралі лідарам каманды.

**select committee** [sɪˌlektkəˈmɪtiː] *n. BrE* адбо́рачная камі́сія

**selection** [sɪˈlekʃn] *n.* **1.** адбо́р, селе́кцыя; **natural selection** *biol.* натура́льны адбо́р; **make a selection** падбіра́ць, выбіра́ць **2.** вы́бар, падбо́р; **selections of Sheridan's works** вы́браныя тво́ры Шэрыда́на; **have a good selection of toys** мець вялі́кі вы́бар ца́цак

**selective** [sɪˈlektɪv] *adj.* **1.** селекцы́йны, адбо́рачны; **the selective breeding** селекцы́йная гадо́ўля **2. (about)** перабо́рлівы; *He's very selective about what to eat.* Ён вельмі пераборлівы ў ядзе.

**self** [self] *n.* (*pl.* **selves**) **1.** сам; ула́сная асо́ба; **my own/very self** я сам; **have no thought of self** не ду́маць пра сябе́; **one's better self** ле́пшае, што ёсць у асо́бе; *She is her old self.* Яна такая, як і была раней; **the conscious self** усведамле́нне **2.** *fml* = **myself, himself, yourself, etc.**; **a cheque payable to self** чэк, вы́пісаны на сябе́; *Mr. Jones, your good self and I...* Містар Джоўнз, Вы і я...

**self-addressed** [ˌselfəˈdrest] *adj.* адрасава́ны сабе́; **a self-addressed envelope** канве́рт, адрасава́ны сабе́

**self-assertive** [ˌselfəˈsɜːtɪv] *adj.* напо́рысты, самасцвярджа́льны

**self-assured** [ˌselfəˈʃʊəd] *adj.* самаўпэ́ўнены

**self-awareness** [ˌselfəˈweənəs] *n.* самасвядо́масць

**self-centred** [ˌselfˈsentəd] *adj. derog.* эгаісты́чны, эгацэнтры́чны

**self-collected** [ˌselfkəˈlektɪd] *adj.* стры́маны, вы́трыманы; сабра́ны, спако́йны

**self-command** [ˌselfkəˈmɑːnd] *n.* самавало́данне; **keep self-command** вало́даць сабо́ю

**self-conceit** [ˌselfkənˈsiːt] *n.* зазна́йства

**self-confident** [ˌselfˈkɒnfɪdənt] *adj.* самаўпэ́ўнены, саманадзе́йны

**self-conscious** [ˌselfˈkɒnʃəs] *adj.* **(about)** сарамлі́вы, збянтэ́жаны; **be/feel self-conscious about smth.** саро́мецца чаго́-н.; **make smb. feel self-conscious** бянтэ́жыць каго́-н.

**self-contained** [ˌselfkənˈteɪnd] *adj.* **1.** *BrE* асо́бны; ізалява́ны; **a self-contained flat** асо́бная кватэ́ра **2.** замкнёны, нетавары́скі, некампане́йскі, заця́ты (*у сабе*)

**self-control** [ˌselfkənˈtrəʊl] *n.* вало́данне сабо́й, стры́манасць; **lose self-control** згубі́ць кантро́ль над сабо́ю; **show/exercise self-control** вало́даць сабо́ю

**self-defence** [ˌselfdɪˈfens] *n.* самаабаро́на; **act in self-defence** дзе́йнічаць у мэ́тах самаабаро́ны

**self-denial** [ˌselfdɪˈnaɪəl] *n.* самаадрачэ́нне

**self-determination** [ˌselfdɪˌtɜːmɪˈneɪʃn] *n.* самавызначэ́нне

**self-discipline** [ˌselfˈdɪsɪplɪn] *n.* самадысцыплі́на

**self-educated** [ˌselfˈedʒʊkeɪtɪd] *adj.* самаадукава́ны; **a self-educated man** самаву́чка

**self-esteem** [ˌselfɪˈstiːm] *n.* пава́га да сябе́, самапава́га; пачуццё ўла́снай го́днасці; **injure smb.'s self-esteem** пакры́ўдзіць чыё-н. пачуццё го́днасці

**self-government** [ˌselfˈɡʌvnmənt] *n.* самакірава́нне

**self-importance** [ˌselfɪmˈpɔːtns] *n. derog.* самаўзвышэ́нне; ганарлі́васць; ва́жнічанне

**self-indulgent** [ˌselfɪnˈdʌldʒənt] *adj. derog.* той, які́ патура́е сваі́м жада́нням; той, хто не ўме́е адмо́віць сабе́ (*у чым-н.*)

**self-interest** [ˌselfˈɪntrɪst] *n.* кары́сць; разлі́к; асабі́стая вы́гада

**selfish** [ˈselfɪʃ] *adj.* эгаісты́чны, сябелюбі́вы, сябелю́бны; *He's very selfish.* Ён вялікі эгаіст.

**selfishness** [ˈselfɪʃnəs] *n.* эгаі́зм, сябелю́бства, сябелю́бнасць

**selfless** [ˈselfləs] *adj.* самаадда́ны, самаахвя́рны, бескары́слівы; **selfless devotion** самаахвя́рная адда́насць

**self-management** [ˌselfˈmænɪdʒmənt] *n.* самакірава́нне

**self-portrait** [ˌselfˈpɔːtrɪt] *n.* аўтапартрэ́т; **a Rembrandt self-portrait** аўтапартрэ́т Рэ́мбранта

**self-possessed** [ˌselfpəˈzest] *adj.* той, хто вало́дае сабо́ю; спако́йны, стры́маны, вы́трыманы

**self-preservation** [ˌselfˌprezəˈveɪʃn] *n.* самазахава́нне; **the instinct for self-preservation** інсты́нкт самазахава́ння

**self-raising flour** [ˌselfreɪzɪŋˈflaʊə] *n.* це́ста, яко́е падыхо́дзіць без дражджэ́й

**self-reliant** [ˌselfrɪˈlaɪənt] *adj.* упэ́ўнены ў сабе́, саманадзе́йны

**self-respect** [ˌselfrɪˈspekt] *n.* пачуццё ўла́снай го́днасці; **keep self-respect** захо́ўваць пачуццё ўла́снай го́днасці

**self-righteous** [ˌselfˈraɪtʃəs] *adj. derog.* самазадаво́лены, пераканáны ў сваёй слу́шнасці; фарысе́йскі

**self-sacrifice** [ˌselfˈsækrɪfaɪs] *n.* самаахвя́рнасць, самаахвярава́нне; самаадда́насць

**self-satisfied** [ˌselfˈsætɪsfaɪd] *adj. derog.* самазадаво́лены

**self-service** [ˌselfˈsɜːvɪs] *n.* самаабслуго́ўванне, самаабслу́га; **a self-service shop** кра́ма самаабслуго́ўвання

**self-sufficient** [ˌselfsəˈfɪʃnt] *adj.* **(in)** самастóйны, эканамíчна незалéжны; самадастаткóвы; *The country is self-sufficient in fuel.* Краіна сама забяспечвае сябе палівам.

**self-supporting** [ˌselfsəˈpɔːtɪŋ] *adj.* незалéжны (*эканамічна*)

**self-willed** [ˌself ˈwɪld] *adj. derog.* свавóльны, упáрты

**sell** [sel] *v.* прадавáць, прадавáцца; гандлявáць; **sell smth. at a good price/at a loss** прадавáць што-н. за дóбрыя грóшы/са стрáтаю; *His book is selling well.* Яго кніга добра разыходзіцца. ♦ **be sold on smth.** *infml* **:** *I'm still not sold on the idea.* Я пакуль яшчэ не трáпіў на кручок; **sell like cakes** прадавáцца нарасхвáт; **sell one's soul to the devil** прадáць душý д'яблу

**sell back** [ˌselˈbæk] *phr.v.* перапрадавáць

**sell off** [ˌselˈɒf] *phr.v.* прадавáць са скíдкаю; *They sold off the goods at a reduced price.* Яны распрадалі тавар па зніжанай цане.

**sell out** [ˌselˈaʊt] *phr.v.* прадавáць; распрадавáцца; *The concert is sold out.* Білеты на канцэрт распрададзены; *We've sold out of milk.* Малако прададзена; *He sold out his principles.* Ён здрадзіў сваім прынцыпам.

**sell up** [ˌselˈʌp] *phr.v.* распрадáць сваю маёмасць

**seller** [ˈselə] *n.* **1.** прадавéц, гандлЯр **2. : a good seller** хóдкая кнíга, бестсéлер; хóдкі тавáр; *The car is a poor seller.* Гэтая машына не мае попыту.

**sellotape** [ˈseləteɪp] *n. BrE* скотч

**sell-out** [ˈselaʊt] *n.* **1.** канцэ́рт, спектáкль і да т.п., на якí распрадáдзены ўсе білéты **2.** здрáда

**selves** [selvz] *pl.* → **self**

**semantic** [sɪˈmæntɪk] *adj. ling.* семанты́чны; **the semantic analysis** семанты́чны анáліз

**semantics** [sɪˈmæntɪks] *n. ling.* семáнтыка

**semaphore** [ˈseməfɔː] *n.* семафóр

**semen** [ˈsiːmen] *n. biol.* спéрма, сéмя

**semester** [sɪˈmestə] *n.* паўгóддзе, вучэ́бны семéстр

**semicircle** [ˈsemisɜːkl] *n.* паўкóла, паўкрýг

**semicolon** [ˌsemiˈkəʊlən] *n.* крóпка з кóскаю

**semi-detached** [ˌsemidɪˈtætʃt] *adj.* **: semi-detached houses** дамы́, якíя мáюць агýльную сцянý; палóва двухкватэ́рнага дóма

**semi-final** [ˌsemiˈfaɪnl] *n. sport* паўфінáл

**seminar** [ˈsemɪnɑː] *n.* семінáр

**seminarian** [ˌsemɪˈneəriən] *n.* семінары́ст

**seminary** [ˈsemɪnəri] *n.* духóўная семінáрыя

**semiotics** [ˌsemiˈɒtɪks] *n.* семіётыка

**Semite** [ˈsemaɪt, ˈsiːmaɪt] *n.* семíт; семíтка

**Semitic** [səˈmɪtɪk] *adj.* семíцкі

**semitone** [ˈsemitəʊn] *n. mus.* паўтóн

**semivowel** [ˈsemivaʊəl] *n. ling.* паўгалóсны

**semolina** [ˌseməˈliːnə] *n.* мáнныя крýпы; мáнная кáша

**senate** [ˈsenət] *n.* **1.** сенáт; **2.** рáда (*у некаторых універсітэтах*)

**senator** [ˈsenətə] *n.* сенáтар

**send** [send] *v.* **(sent) 1.** пасылáць, адсылáць, адпраўлЯць; **send smb. one's love** перадавáць прывітáнне камý-н.; **send smb. about his business** праганЯць кагó-н. (*каб займаўся сваёй справай*); **send for smb.** выклікáць, пасылáць за кім-н. **2.** перадавáць (*па радыё*) **3.** прывóдзіць у якí-н. стан; *His lecture sent me to sleep.* Я заснуў на яго лекцыі; *The storm sent the temperature down.* Бура знізіла тэмпературу.

**send away** [ˌsendəˈweɪ] *phr.v.* адсылáць, адпраўлЯць

**send back** [ˌsendˈbæk] *phr.v.* **1.** пасылáць назáд **2.** адлюстрóўваць

**send down** [ˌsendˈdaʊn] *phr.v.* выключáць (*з каледжа, універсітэта і да т.п.*)

**send in** [ˌsendˈɪn] *phr.v.* пасылáць па пóшце; *He sent in his application.* Ён падаў заяву.

**send off** [ˌsendˈɒf] *phr.v.* = **send away**

**send out** [ˌsendˈaʊt] *phr.v.* **1.** высылáць; рассылáць **2.** выпрамéньваць (*святло, цяпло і да т.п.*)

**sender** [ˈsendə] *n.* адпрáўшчык (*ліста, тавару і да т.п.*)

**senior**[1] [ˈsiːniə] *n.* **1.** старэ́йшы; *She is my senior by 2 years.* Яна старэйшая за мяне на два гады. **2.** вýчань старэ́йшых клáсаў **3.** *AmE* студэ́нт апóшняга кýрса

**senior**[2] [ˈsiːniə] *adj.* старэ́йшы; вышэ́йшы (*рангам*); *He is senior to me.* Ён старэйшы за мяне; **John Brown Senior** Джон Браўн старэ́йшы

**senior citizen** [ˌsiːniəˈsɪtɪzn] *n.* асóба пенсíйнага ўзрóсту

**senior high school** [ˌsiːniəˈhaɪskuːl] *n.* вышэ́йшыя клáсы сярэ́дняй шкóлы ў ЗША

**sensation** [senˈseɪʃn] *n.* **1.** пачуццё, адчувáнне; **a sensation of warmth** адчувáнне цеплынí **2.** сенсáцыя; **cause a sensation** вы́клікаць сенсáцыю

**sensational** [senˈseɪʃənl] *adj.* **1.** сенсацы́йны **2.** *infml* надзвычáйны, ашаламлЯльны

**sense** [sens] *n.* **1.** пачуццё; **have a keen sense of hearing** мець вóстры слых **2.** адчувáнне; **have no sense of guilt** не адчувáць віны́; **a lofty sense** высакарóдныя пачýцці **3.** *pl.* **senses** прытóмнасць; рóзум; **be out of one's senses** быць не ў пóўным рóзуме; **lose one's senses** стрáціць рóзум; **bring/come to one's senses** прывéс-

ці да ро́зуму/аду́мацца **4.** сэнс, значэ́нне; **common sense** здаро́вы сэнс; **in a sense** у вядо́мым сэ́нсе; **in a certain sense** у некато́рай ступе́ні ♦ **make no sense** не мець сэ́нсу, не мець значэ́ння

**senseless** [ˈsensləs] *adj.* **1.** бессэнсо́ўны, недарэ́чны **2.** непрыто́мны; **fall sensless** стра́ціць прыто́мнасць

**sensibility** [ˌsensəˈbɪləti] *n.* **1.** ўра́жлівасць **2.** *pl.* **sensibilities** чуллі́васць, схі́льнасць ху́тка крыўдзіцца

**sensible** [ˈsensəbl] *adj.* **1.** разу́мны, разва́жлівы; практы́чны (*пра адзенне*) **2.** зна́чны, адчува́льны, відаво́чны, прыкме́тны; **a sensible rise in temperature** зна́чнае павышэ́нне тэмперату́ры

**sensitive** [ˈsensətɪv] *adj.* **1.** чуллі́вы, ура́жлівы, успрыма́льны; **sensitive to light** успрыма́льны да святла́; **a sensitive skin** даліка́тная ску́ра; **sensitive paper** святлоадчува́льная папе́ра **2.** ура́злівы, крыўдлі́вы; *She has a sensitive nature.* У яе тонкая натура.

**sensitivity** [ˌsensəˈtɪvəti] *n.* **(to)** ура́жлівасць; чу́ласць, чуллі́васць

**sensor** [ˈsensə] *n. tech.* да́тчык; адчува́льны элеме́нт

**sensual** [ˈsenʃuəl] *adj.* пажа́длівы, пачуццёвы (*погляд, задавальненне і да т.п.*)

**sensuous** [ˈsenʃuəs] *adj.* пачуццёвы (*пра ўспрыманне*); **sensuous poetry** эмацы́йна насы́чаная паэ́зія

**sent** [sent] *past, p.p.* → **send**

**sentence¹** [ˈsentəns] *n.* **1.** *ling.* сказ, фра́за; **a compound/complex/simple sentence**; складаназлу́чаны/складаназале́жны/про́сты сказ **2.** прыгаво́р, прысу́д; рашэ́нне; **a life sentence** прыгаво́р да пажыццёвага зняво́лення; **under sentence of death** пад смяро́тным прыгаво́рам; **pass/commute/quash a sentence** выно́сіць/змяня́ць/адмяня́ць прысу́д; **serve one's sentence** адбыва́ць тэ́рмін пакара́ння

**sentence²** [ˈsentəns] *v.* **(to)** прыгаво́рваць, прысуджа́ць, асу́джваць (*выносіць прысуд*); *He was sentenced to life imprisonment.* Яго прыгаварылі да пажыццёвага зняволення.

**sentiment** [ˈsentɪmənt] *n. fml* **1.** пачуццё; **a sentiment of pity** пачуццё жа́лю **2.** *pl.* **sentiments** адно́сіны; настро́й; **a speech full of lofty sentiments** прамо́ва, по́ўная ўзнёслых эмо́цый

**sentimental** [ˌsentɪˈmentl] *adj.* сентымента́льны; по́ўны пачу́ццяў; **have a sentimental attachment to one's birthplace** мець сентымента́льныя пачу́цці да ме́сца нараджэ́ння

**sentinel** [ˈsentɪnl] *n. lit.* = **sentry**

**sentry** [ˈsentri] *n. mil.* вартавы́; **be on sentry duty** стая́ць у караву́ле, быць на ва́рце

**Sep., Sept.** (*пісьмовае скар. ад* **September**) ве́расень

**separable** [ˈsepərəbl] *adj.* **(from)** асо́бны; *Are these parts separable?* Гэтыя часткі аддзяляюцца?

**separate¹** [ˈseprət] *adj.* **1. (from)** асо́бны, паасо́бны; **go separate ways** разыхо́дзіцца **2.** ро́зны; самасто́йны; індывідуа́льны **3.** сепара́тны; **a separate peace treaty** сепара́тны мі́рны дагаво́р

**separate²** [ˈsepəreɪt] *v.* **1.** аддзяля́ць, раз'ядно́ўваць **2.** расклада́ць (*на часткі*) **3.** аддзяля́цца; разлуча́цца; разыхо́дзіцца (*пра мужа і жонку*) **4.** сартава́ць ♦ **separate the sheep from the goat** разбіра́цца, хто ёсць хто; **separate the wheat from the chaff** аддзяля́ць зе́рне ад мякі́ны

**separately** [ˈseprətli] *adv.* **(from)** паасо́бку, асо́бна (*ад*)

**separation** [ˌsepəˈreɪʃn] *n.* **1. (from)** аддзяле́нне (*ад*) **2.** расста́нне, расстава́нне; **decide on (a) separation** вы́рашыць разысці́ся (*жыць асобна*)

**September** [sepˈtembə] *n.* ве́расень; **in September** у ве́расні

**septic** [ˈseptɪk] *adj. med.* септы́чны, зара́жаны; *My finger has gone septic.* У мяне загнаіўся палец.

**sequel** [ˈsiːkwəl] *n.* **1.** вы́нік; **an unfortunate sequel** няшча́сны вы́нік **2. (to)** праця́г, прадаўжэ́нне (*фільма, рамана і да т.п.*)

**sequence** [ˈsiːkwəns] *n.* **1.** паслядо́ўнасць; се́рыя; **a sequence of events** ход падзе́й; **in strict sequence** у стро́гай паслядо́ўнасці **2.** эпізо́д (*фільма*)

**sequence of tenses** [ˌsiːkwənsəvˈtensɪz] *n. ling.* **the sequence of tenses** дапасава́нне часо́ў

**Serbian¹** [ˈsɜːbiən] *n.* **1.** серб; се́рбка **2.** се́рбская мо́ва

**Serbian²** [ˈsɜːbiən] *adj.* се́рбскі

**Serbo-Croatian** [ˌsɜːbəʊkrəʊˈeɪʃn] *n.* се́рбахарва́цкі

**serenade** [ˌserəˈneɪd] *n.* серэна́да

**serene** [səˈriːn] *adj.* ці́хі, спако́йны; **the serene sky** я́снае, бязво́блачнае не́ба; **a serene look** ціхамі́рны по́гляд

**serenity** [səˈrenəti] *n.* **1.** пако́й; ціхамі́рнасць **2.** я́снасць, бясхма́рнасць

**serf** [sɜːf] *n. hist.* прыго́нны селяні́н

**serfdom** [ˈsɜːfdəm] *n. hist.* прыго́ннае пра́ва

**sergeant** [ˈsɑːdʒənt] *n.* сяржа́нт

**sergeant-major** [ˌsɑːdʒəntˈmeɪdʒə] *n.* ста́ршы сяржа́нт

**serial**[1] [ˈsɪəriəl] *n.* шматсеры́йны фільм, серыя́л; серы́йная публіка́цыя

**serial**[2] [ˈsɪəriəl] *adj.* **1. : a serial number** пара́дкавы ну́мар **2.** серы́йны

**series** [ˈsɪəri:z] *n.* (*pl.* **series**) **1.** шэ́раг; **a series of misfortunes** паласа́ няўда́ч **2.** се́рыя, вы́пуск, кампле́кт

**serious** [ˈsɪəriəs] *adj.* **1.** сур'ёзны, ва́жны; **be serious about smth.** ста́віцца сур'ёзна да чаго́-н. **2.** ця́жкі, сур'ёзны; **a serious illness** ця́жкая хваро́ба; **a serious argument** ва́жкі аргуме́нт

**seriously** [ˈsɪəriəsli] *adv.* сур'ёзна; пава́жна; **take smth. seriously** успрыма́ць што-н., ста́віцца да чаго́-н. сур'ёзна

**seriousness** [ˈsɪəriəsnəs] *n.* сур'ёзнасць; пава́жнасць; **in all seriousness** без жа́ртаў; ве́льмі сур'ёзна

**sermon** [ˈsɜ:mən] *n.* **1.** про́паведзь, ка́зань; **preach a sermon** прамаўля́ць ка́зань **2.** *infml* павуча́нне

**serpent** [ˈsɜ:pənt] *n. lit.* вуж, вужа́ка, змяя́; змій (*у Біблії*)

**serpentine** [ˈsɜ:pəntaɪn] *adj. lit.* зві́лісты, пакруча́сты, змеепадо́бны; **a serpentine road** зві́лістая даро́га

**serum** [ˈsɪərəm] *n.* (*pl.* **sera** *or* **serums**) **1.** сыро́ватка **2.** *med.* сы́варатка

**servant** [ˈsɜ:vənt] *n.* **1.** слуга́; слу́жка; служа́нка; на́йміт; на́ймічка; **keep servants** трыма́ць слуг **2.** слу́жачы; службо́вец; **a public/civil servant** дзяржа́ўны слу́жачы, ура́давы чыно́ўнік

**serve** [sɜ:v] *v.* **1.** служы́ць; **serve as (a) gardener** служы́ць садо́ўнікам; **serve in the army** служы́ць у а́рміі; **if my memory serves me right** калі́ мяне́ не падво́дзіць па́мяць **2.** падава́ць на стол; **serve dinner** падава́ць абе́д **3.** абслуго́ўваць (*пакупнікоў*) **4.** быць прыда́тным, задавальня́ць; *This room can serve for/as a study.* Гэты пакой можа служыць кабінетам. **5.** *sport* падава́ць мяч (*у тэнісе, валейболе*) ♦ **it serves you right** так табе́ і трэ́ба; **serve two masters** і тамý, і другóму

**serve out** [ˌsɜ:vˈaʊt] *phr.v.* **1.** раздава́ць **2.** *infml* адпла́чваць

**server** [ˈsɜ:və] *n.* **1.** *comput.* се́рвер **2.** падно́с; лы́жка; відэ́лец (*для сервіравання*) **3.** *AmE* той, хто абслуго́ўвае; афіцыя́нт; афіцыя́нтка

**service** [ˈsɜ:vɪs] *n.* **1.** слу́жба; **church service** набажэ́нства, богаслужэ́нне; **civil service** цыві́льная, грамадзя́нская слу́жба; адміністрацы́йны апара́т; **be in the service** служы́ць у во́йску; **return from service** пайсці́ ў адста́ўку **2.** паслу́га; **be of service** быць кары́сным; **do smb. a service** зрабі́ць каму́-н. паслу́гу **3.** абслуго́ўванне, сэ́рвіс; **a bus service** аўто́бусны рух; **a health service** медыцы́нскае абслуго́ўванне; **social services** сацыя́льнае абслуго́ўванне насе́льніцтва; **a rental service** атэлье́ праката́ту ♦ **be at smb.'s service :** *I'm at your service.* Я гатовы зрабіць вам паслугу; **be of no service** быць непатрэ́бным

**service area** [ˈsɜ:vɪsˌeəriə] *n. BrE* ста́нцыя абслуго́ўвання на аўтастра́дзе

**service flat** [ˈsɜ:vɪsˌflæt] *n.* кватэ́ра з гатэ́льным абслуго́ўваннем

**serviceman** [ˈsɜ:vɪsmən] *n.* (*pl.* **-men**) ваеннаслу́жачы, вайско́вец

**service station** [ˈsɜ:vɪsˌsteɪʃn] *n.* ста́нцыя абслуго́ўвання, запра́вачная, бензазапра́ўка

**serviette** [ˌsɜ:viˈet] *n. BrE* сурвэ́тка; **a paper serviette** папяро́вая сурвэ́тка

**servile** [ˈsɜ:vaɪl] *adj.* **1.** ліслі́вы, нізкапакло́ніцкі **2.** ра́бскі, няво́льнічы; **servile labour** ра́бская пра́ца

**servility** [sɜ:ˈvɪləti] *n.* уго́дніцтва, сервілі́зм

**sesame** [ˈsesəmi] *n. bot*. кунжу́т, сеза́м

**session** [ˈseʃn] *n.* се́сія; пасяджэ́нне; **a plenary session** пле́нум; **a private session** закры́тае/та́йнае пасяджэ́нне; **in session** на се́сіі, на пасяджэ́нні; **be in session** засяда́ць, мець се́сію

**set**[1] [set] *n.* **1.** набо́р, кампле́кт, сервí́з; **a complete set of Dickens** по́ўны збор тво́раў Ды́кенса; **a tea set** серві́з для гарба́ты **2.** ко́ла людзе́й (*звязаных агульнымі інтарэсамі*); **literary sets** літарату́рныя ко́лы **3.** прыбо́р; **a toilet set** туале́тны прыбо́р **4.** фо́рма, лі́нія, абры́с; **a set of shoulders** лі́нія плячэ́й, разваро́т **5.** дэкара́цыя **6.** малады́ па́растак

**set**[2] [set] *adj.* **1.** нерухо́мы, засты́лы; **a set stare** нерухо́мы по́гляд; **with a set face** з каме́нным тва́рам **2.** пастая́нны, цвёрда вы́значаны; нязме́нны; **set wages** цвёрды акла́д; **a set pattern** штамп; **a set phrase** клішэ́ **3.** насто́йлівы, упа́рты; **a man of set opinions** чалаве́к цвёрдых по́глядаў; *We've come here for a set purpose.* Мы прыйшлі сюды з цвёрдым намерам. ♦ **be set on doing smth.** мець наме́р рабі́ць што-н.; **be (dead) set against smth.** быць су́праць чаго́-н.

**set**[3] [set] *v.* **(set) 1.** ста́віць, кла́сці; размяшча́ць; *The house is set in the suburbs.* Дом знаходзіцца ў прыгарадзе; *The novel is set in prewar London.* Месца дзеяння ў рамане – перадваенны Лондан. **2.** саджа́ць, уса́джваць; **set smb. by the fire-place** усадзі́ць каго́-н. каля́ камі́на **3.** напраўля́ць, накіро́ўваць; паваро́чваць; **set one's face towards the sun** паваро́чвацца тва́рам да со́нца **4.** падрыхто́ўваць,

прыво́дзіць у стан гато́ўнасці; **set a piano** настро́йваць піяні́на; **set the stage** расстаўля́ць дэкара́цыі **5.** прызнача́ць, назнача́ць, вызнача́ць; **set a date** назнача́ць да́ту **6.** захо́дзіць (*пра нябесныя свяцілы*); *The sun is setting.* Сонца заходзіць. **7.** ста́віць, настаўля́ць; **set an alarm-clock** заво́дзіць будзі́льнік; **set a goal** ста́віць мэ́ту; **set a sum** задава́ць зада́чу **8.** даво́дзіць да ла́ду, папраўля́ць; **set a hat** папраўля́ць капялю́ш; **set a broken arm** упраўля́ць руку́ **9.** прымуша́ць; *We were set at work.* Нас засадзілі за працу; *His words set me thinking.* Яго словы прымусілі мяне задумацца. **10.** застыва́ць; *The jelly has set.* Жэле застыла. ♦ **set about doing smth.** *infml* піча́ць рабі́ць што-н.; **set smb. against smb.** падбухто́рваць каго́-н. су́праць каго́-н.

**set apart** [ˌsetəˈpɑːt] *phr.v.* аддаля́ць, раздзяля́ць

**set aside** [ˌsetəˈsaɪd] *phr.v.* адклада́ць, адкла́дваць; **set aside a verdict** анулява́ць прыгаво́р

**set back** [ˌsetˈbæk] *phr.v.* **1.** затры́мліваць, тармазі́ць; *The bad weather has set them back.* Дрэннае надвор'е затрымала іх. **2.** размяшча́ць далёка; адсо́ўваць; *The house is set well back from the road.* Дом знаходзіцца даволі далёка ад дарогі.

**set down** [ˌsetˈdaʊn] *phr.v.* **1.** выса́джваць (*пасажыраў*) **2.** запі́сваць

**set forth** [ˌsetˈfɔːθ] *phr.v. fml* адпраўля́цца, выпраўля́цца (*у падарожжа*); **set smth. forth** фармулява́ць (*думкі, ідэі*)

**set in** [ˌsetˈɪn] *phr.v.* пачына́цца; *Winter has set in early.* Зіма наступіла рана.

**set off** [ˌsetˈɒf] *phr.v.* адпраўля́цца, выпраўля́цца ў даро́гу

**set out** [ˌsetˈaʊt] *phr.v.* **1.** выхо́дзіць, выязджа́ць; **set out to do smth.** збіра́цца рабі́ць што-н. **2.** выстаўля́ць; расклада́ць, раскла́дваць, расстаўля́ць

**set up** [ˌsetˈʌp] *phr.v.* **1.** устана́ўліваць, фарміра́ваць; **set up a monument** узве́сці по́мнік; **set up a new government** сфарміра́ваць но́вы ўра́д; **set up a new record** паста́віць но́вы рэко́рд **2.** распачына́ць (*справу*); **set up as a chemist's** адкры́ць аптэ́ку **3.** дапамага́ць (*каму-н.*) уладкава́цца; *Her father set her up in business.* Бацька дапамог ёй распачаць справу. **4.** аднаўля́ць (*сілы*); *A week in the country set her up nicely again.* Тыдзень за горадам вярнуў ёй здароўе.

**setback** [ˈsetbæk] *n.* няўда́ча; пара́за, спад; **a crop setback** неўраджа́й; **suffer a setback** пацярпе́ць паражэ́нне

**set square** [ˈsetskweə] *n. BrE* вуго́льнік

**settee** [seˈtiː] *n.* кушэ́тка, кана́па (*невялікая*)

**setting** [ˈsetɪŋ] *n.* **1.** апра́ва, абрамле́нне, ра́мка (*карціны*) **2.** навако́лле; ме́сца і час дзе́яння **3.** маста́цкае афармле́нне (*спектакля*); пастано́ўка **4.** му́зыка на сло́вы **5.** за́хад (*сонца*)

**settle** [ˈsetl] *v.* **1.** пасяля́ць; пасяля́цца; **settle new lands** засяля́ць но́выя зе́млі **2.** уладко́ўваць; уладко́ўвацца, уса́джвацца; *Will the snow settle?* Снег пратрымаецца?; *He settled himself in an armchair.* Ён усеўся ў крэсла. **3.** раша́ць, выраша́ць; ула́джваць; ула́джвацца; **settle affairs** упарадко́ўваць, ула́джваць спра́вы; **settle problems** выраша́ць пыта́нні; **settle differences** зніма́ць рознагало́ссі; **settle on smth.** дамо́віцца аб чым-н., прыня́ць яко́е-н. рашэ́нне; *The pill will help you* (*to*) *settle your nerves.* Таблетка дапаможа табе супакоіць нервы. **4.** аплаці́ць (*рахунак*) ♦ **settle an old score** расквіта́цца, паквіта́цца; **settle an account (with smb.)** адпо́мсціць каму́-н.

**settle down** [ˌsetlˈdaʊn] *phr.v.* **1.** сці́шыцца, суці́шыцца, суня́цца; *When will he settle down?* І калі ж ён пасталее? **2.** супако́іць; супако́іцца; заспако́іць; заспако́іцца; **settle down to smth.** узя́цца што-н. рабі́ць

**settled** [ˈsetld] **1.** *adj.* асе́лы **2.** усталява́ны, вы́значаны (*дата, цана і да т.п.*)

**settlement** [ˈsetlmənt] *n.* **1.** урэгулява́нне; пагадне́нне; рашэ́нне; зго́да; **an amicable settlement** сябро́ўская здзе́лка; палюбо́ўнае пагадне́нне; **hamper a political settlement** тармазі́ць паліты́чнае ўрэгулява́нне **2.** пасяле́нне, кало́нія, засяле́нне; пасе́лішча, сялі́ба; **an old settlement site** гарадзі́шча; **make a settlement** засяля́ць (*землі*)

**settler** [ˈsetlə] *n.* пасяле́нец; пасяле́нка

**set-up** [ˈsetʌp] *n. infml* **1.** сітуа́цыя; абста́віны; **2.** план, загаво́р, інтры́жка

**seven** [ˈsevn] *n., num.* сем; сямёра; сямёрка ♦ **at sixes and sevens** *infml* ≅ уве́рх дном, дагары́ нага́мі

**seventeen** [ˌsevnˈtiːn] *num.* сямна́ццаць

**seventeenth** [ˌsevnˈtiːnθ] *n., num.* сямна́ццаты; сямна́ццатая ча́стка

**seventh** [ˈsevnθ] *num., n.* сёмы; сёмая ча́стка

**seventieth** [ˈsevntiəθ] *num., n.* сямідзяся́ты; сямідзяся́тая ча́стка

**seventy** [ˈsevnti] *num., n.* се́мдзесят; **the seventies** гады́, тэмперату́ра ад 70 да 79; **in one's seventies :** *He is in his seventies.* Яму за семдзесят.

**sever** [ˈsevə] *v. fml* **1. (from)** разраза́ць, разрэ́зваць; адраза́ць, адрэ́зваць **2.** (і)рва́ць, разрыва́ць; **sever relations with smb.** разарва́ць адно́сіны з кім-н.

**signet ring** [ˈsɪgnətˌrɪŋ] *n.* пярсцёнак з пяча́ткаю
**significance** [sɪgˈnɪfɪkəns] *n.* **1.** значэ́нне, сэнс; *What's the significance of this symbol?* Што азначае гэты сімвал? **2.** зна́чнасць, ва́жнасць; **a matter of great significance** спра́ва вялі́кай ва́жнасці; **attach significance** надава́ць значэ́нне
**significant** [sɪgˈnɪfɪkənt] *adj.* **1.** зна́чны, ва́жны; істо́тны **2.** шматзна́чны, выра́зны; **a significant look** выра́зны по́зірк
**significantly** [sɪgˈnɪfɪkəntli] *adv.* **1.** зна́чна **2.** ва́жна, выра́зна
**signification** [ˌsɪgnɪfɪˈkeɪʃn] *n. ling., fml* змест, значэ́нне; **the signification of the word** значэ́нне сло́ва
**signify** [ˈsɪgnɪfaɪ] *v.* **1.** *fml* зна́чыць, азнача́ць, мець значэ́нне; *It doesn't signify*. Гэта не мае значэння. **2.** пака́зваць, вы́казваць; **signify one's agreement by nodding** пака́зваць сваю зго́ду кіўко́м галавы́
**sign language** [ˈsaɪnˌlæŋgwɪdʒ] *n.* **1.** мо́ва жэ́стаў **2.** *ling.* кінеты́чная мо́ва
**signpost** [ˈsaɪnpəʊst] *n.* паказа́льнік даро́г, паказа́льны слуп
**silage** [ˈsaɪlɪdʒ] *n.* сі́лас; **silage crop** сі́ласная культу́ра; **a silage tower** сі́ласная ве́жа
**silence**[1] [ˈsaɪləns] *n.* **1.** цішыня́; **in dead silence** у мёртвай цішы́; **keep/break silence** захо́ўваць/ паруша́ць цішыню́ **2.** маўча́нне; **in silence** мо́ўчкі; *Silence gives consent*. Маўчанне – знак згоды. ♦ **silence is golden** маўча́нне – зо́лата
**silence**[2] [ˈsaɪləns] *v.* **1.** прымуша́ць замо́ўкнуць, супако́йваць **2.** заглуша́ць; **silence a noise** заглуша́ць шум
**silencer** [ˈsaɪlənsə] *n. BrE* глушы́цель, глушы́льнік
**silent** [ˈsaɪlənt] *adj.* **1.** ці́хі; бязгу́чны, бясшу́мны; **a silent volcano** пату́хлы вулка́н; **silent spirit** ачы́шчаны спірт **2.** маўклі́вы; **keep/remain silent** маўча́ць; **fall silent** замаўча́ць **3.** няма́я (*літара*)
**silent film** [ˌsaɪləntˈfɪlm] *n.* немы́ фільм
**silent majority** [ˌsaɪləntməˈdʒɒrəti] *n.* **the silent majority** маўклі́вая бо́льшасць; *joc.* насе́льнікі таго́ све́ту ♦ **join the silent majority** адпра́віцца да про́дкаў
**silent partner** [ˌsaɪləntˈpɑːtnə] *n. AmE* пасі́ўны партнёр кампа́нії
**silhouette**[1] [ˌsɪluˈet] *n.* сілуэ́т; **smth. shown in silhouette** сілуэ́тная вы́ява
**silhouette**[2] [ˌsɪluˈet] *v.* вызнача́цца; **silhouette against the sky** вырысо́ўвацца на фо́не не́ба
**silica** [ˈsɪlɪkə] *n. chem.* крэмназём, кварц; **silica brick** сіліка́тная цэ́гла
**silicate** [ˈsɪlɪkɪt] *n. chem.* сіліка́т
**silicon** [ˈsɪlɪkən] *n. chem.* крэ́мній
**silicosis** [ˌsɪlɪˈkəʊsɪs] *n.* (*pl.* **silicoses**) *n. med.* сіліко́з
**silk** [sɪlk] *n.* шоўк; **raw silk** шоўк-сырэ́ц; **be dressed in silks** хадзі́ць у шаўка́х ♦ **as smooth as silk** гла́дкі як шоўк
**silken** [ˈsɪlkən] *adj. lit.* шаўкаві́сты; гла́дкі; мя́ккі; **a silken voice** мя́ккі, прые́мны го́лас
**silkworm** [ˈsɪlkwɜːm] *n.* шаўко́ўнічны чарвя́к, ту́тавы шаўкапра́д
**silky** [ˈsɪlki] *adj.* **1.** шаўкаві́сты **2.** прые́мны, даліка́тны; **silky manners** мя́ккія мане́ры
**sill** [sɪl] *n.* **1.** падако́ннік, падако́нне **2.** паро́г (*дзвярэй*)
**sillabub** [ˈsɪləbʌb] *n.* узбі́тыя вяршкі́ з віно́м
**silly**[1] [ˈsɪli] *n. infml* дурні́ца; бла́зан; *Don't be such a silly*! Не будзь дурнем!
**silly**[2] [ˈsɪli] *adj.* дурны́, неразу́мны; **a silly thing** глу́пства; **a silly mistake** дура́цкая памы́лка; **scared silly** адурэ́лы ад стра́ху; *Don't be silly!* Не рабі глупства!; *You silly boy!* Дурненькі ты! ♦ **go silly over a woman** стра́ціць ро́зум ад каха́ння да жанчы́ны; **the silly season** *BrE* мёртвы сезо́н; жні́вень і ве́расень (*час парламенцкіх канікулаў*)
**silo** [ˈsaɪləʊ] *n.* (*pl.* **-os**) сі́ласная я́ма або́ ве́жа; **a silo cutter** сіласарэ́зка
**silt**[1] [sɪlt] *n.* глей, буза́, мул
**silt**[2] [sɪlt] *v.* асяда́ць гле́ем
**silt up** [ˌsɪltˈʌp] *phr.v.* засме́чваць, забіва́ць (*глеем*); засме́чвацца, загле́йвацца; *The sand has silted up the mouth of the river.* Пясок забіў усё вусце ракі.
**silty** [ˈsɪlti] *adj.* гле́істы, гле́йкі, му́лісты; **silty rocks** гле́істыя ска́лы
**silvan** [ˈsɪlvən] *adj.* лясі́сты; лясны́; **silvan glades** лясны́я паля́ны
**silver**[1] [ˈsɪlvə] *n.* **1.** серабро́, срэ́бра; **fine silver** чы́стае серабро́ **2.** срэ́бныя мане́ты; **£ 5 in silver** 5 фу́нтаў серабро́м **3.** сярэ́браныя вы́рабы; **table silver** стало́вае срэ́бра
**silver**[2] [ˈsɪlvə] *adj.* сярэ́браны, срэ́бны; **silver hair** сівы́я валасы́ ♦ **speech is silver, silence is golden** сло́ва – серабро́, маўча́нне – зо́лата
**silver**[3] [ˈsɪlvə] *v.* серабры́ць; серабры́цца; пакрыва́ць серабро́м; *His hair is silvering.* У яго з'яўляецца сівізна.
**silver birch** [ˌsɪlvəˈbɜːtʃ] *n. bot.* серабры́стая бяро́за
**silver-haired** [ˌsɪlvəˈheəd] *adj.* сівы́, з сівы́мі валаса́мі
**silver jubilee** [ˌsɪlvəˈdʒuːbɪliː] *n.* сярэ́браны юбіле́й (*25 гадоў*)

**silver maple** [ˌsɪlvəˈmeɪpl] *n. bot.* серабры́сты клён
**silver medal** [ˌsɪlvəˈmedl] *n.* сярэ́браны меда́ль
**silver-plated** [ˌsɪlvəˈpleɪtɪd] *adj.* пакры́ты срэ́брам; **silver-plated dishes** срэ́браны по́суд
**silverside** [ˈsɪlvəsaɪd] *n.* шы́нка, кумпя́к
**silversmith** [ˈsɪlvəsmɪθ] *n.* сярэ́браных спраў ма́йстар
**silver spoon** [ˌsɪlvəˈspuːn] *n.* сярэ́браная лы́жка; бага́цце ♦ **be born with a silver spoon in one's mouth** ≅ нарадзі́цца ў кашу́лі
**Silver State** [ˈsɪlvəˌsteɪt] *n. AmE, infml* **the Silver State** «Срэ́бны штат» (*назва штата Невада*)
**silver thaw** [ˌsɪlvəˈθɔː] *n.* галалёдзіца
**silver-tongued** [ˌsɪlvəˈtʌŋd] *adj.* красамо́ўны; саладкамо́ўны, ліслі́вы
**silverware** [ˈsɪlvəweə] *n.* стало́вае серабро́, вы́рабы са срэ́бра
**silver wedding** [ˌsɪlvəˈwedɪŋ] *n.* сярэ́бранае вясе́лле (*25 гадоў сумеснага жыцця*)
**silvery** [ˈsɪlvəri] *adj.* **1.** серабры́сты; **a silvery surface** серабры́стая паве́рхня **2.** чы́сты, я́сны, мелады́чны (*пра гук*); **a silvery voice** серабры́сты го́лас (*жаўрука*)
**simian** [ˈsɪmiən] *adj.* малпападо́бны
**similar** [ˈsɪmələ] *adj.* **(to, in)** падо́бны (да); **a similar system** аналагі́чная сістэ́ма; *We have similar tastes.* У нас падобныя густы.
**similarity** [ˌsɪməˈlærəti] *n.* **(to, in)** падабе́нства; *There are points of similarity between them.* Паміж імі ёсць нейкае падабенства.
**similarly** [ˈsɪmələli] *adv.* такса́ма, такі́м чы́нам; *She was late, and I similarly was delayed.* Яна спазнілася, і я таксама затрымаўся.
**simile** [ˈsɪməli] *n. ling.* параўна́нне; *Her style is rich in similes.* Яе стыль багаты на параўнанні.
**simmer[1]** [ˈsɪmə] *n.* паво́льнае кіпе́нне, закіпа́нне; **keep at a simmer/on the simmer** падтры́мліваць паво́льнае кіпе́нне
**simmer[2]** [ˈsɪmə] *v.* **1.** трыма́ць на малы́м агні́; кіпе́ць на малы́м агні́ **2. (with)** бу́лькаць, булькаце́ць; бурлі́ць; **simmer with indignation** кіпе́ць ад абурэ́ння; *Ideas were simmering at the back of his mind.* У глыбіні яго свядомасці раіліся думкі.
**simmer down** [ˌsɪməˈdaʊn] *phr.v. infml* супако́іцца, перакіпе́ць
**simoom** [sɪˈmuːm] *n.* саму́м (*вецер*)
**simper[1]** [ˈsɪmpə] *n.* мане́рная ўсме́шка, ухмы́лка
**simper[2]** [ˈsɪmpə] *v.* мане́рна ўсміха́цца, гавары́ць (*што-н.*) з дурнава́тай ухмы́лкай; **simper consent** пака́зваць зго́ду ўхмы́лкаю
**simple** [ˈsɪmpl] *adj.* **1.** про́сты, нясклада́ны; **a simple statement** *comput.* про́сты апера́тар **2.** немудрагелі́сты, про́сты; **simple food** звыча́йная е́жа; **simple people** про́сты люд **3.** элемента́рны, нераскладальны; **a simple sentence** *ling.* про́сты сказ **4.** прастаду́шны, наі́ўны; дурнава́ты; **as simple as a child** шчы́ры як дзіця́ **5**. я́ўны, відаво́чны; **simple facts** го́лыя фа́кты; **the simple truth** шчы́рая пра́ўда
**simple fraction** [ˌsɪmplˈfrækʃn] *n. math.* про́сты дроб
**simple fracture** [ˌsɪmplˈfræktʃə] *n. med.* невялі́кі перало́м
**simple-hearted** [ˌsɪmplˈhɑːtɪd] *adj.* прастаду́шны, няхі́тры
**simple interest** [ˌsɪmplˈɪntrɪst] *n. finance* про́сты працэ́нт
**simple machines** [ˌsɪmplməˈʃiːnz] *n. pl.* найпрасце́йшыя прыла́ды (*кола, клін і да т.п.*)
**simple-minded** [ˌsɪmplˈmaɪndɪd] *adj.* **1.** няхі́тры **2.** тупава́ты, дурнава́ты; **a simple-minded approach** праставатае ста́ўленне
**simpleton** [ˈsɪmpltən] *n. dated* прасця́к; прасця́чка; ду́рань; дурні́ца
**simplicity** [sɪmˈplɪsəti] *n.* **1.** прастата́, несклада́насць **2**. прастаду́шнасць; няхі́трасць; **the simplicity of character** прастаду́шнасць, няхі́трасць; **simplicities of cottage life** ці́хія ра́дасці вяско́вага жыцця́; **for the sake of simplicity** дзе́ля прастаты́; каб было́ прасце́й; *She is simplicity itself.* Яна сама наіўнасць.
**simplification** [ˌsɪmplɪfɪˈkeɪʃn] *n.* спрашчэ́нне
**simplify** [ˈsɪmplɪfaɪ] *v.* спрашча́ць, рабі́ць менш склада́ным; **simplify a problem** пале́гчыць прабле́му
**simplistic** [sɪmˈplɪstɪk] *adj. derog.* спро́шчаны
**simply** [ˈsɪmpli] *adv.* **1.** про́ста, нясклада́на; **live simply** жыць про́ста **2.** (*ужываецца для ўзмацнення*) про́ста, абсалю́тна; *I simply refuse to go!* Я проста адмаўляюся ехаць!; *It's simply unbelievable!* Проста неверагодна! **3.** то́лькі, про́ста; *I bought the house simply because it was large.* Я купіў дом проста таму, што ён вялікі.
**simulate** [ˈsɪmjuleɪt] *v.* **1.** сімулява́ць, прыкі́двацца; **simulated joy** прытво́рная ра́дасць **2.** мадэлі́раваць, мадулява́ць; узнаўля́ць **3.** капі́раваць, імітава́ць; **simulate smb.'s voice** імітава́ць чый-н. го́лас; падрабля́ць го́лас пад чый-н.
**simulated** [ˈsɪmjuleɪtɪd] *adj.* падро́блены, фальшы́вы; **simulated pearls** штучны жэ́мчуг; **a simulated flight** мадэлява́ны палёт
**simulation** [ˌsɪmjuˈleɪʃn] *n.* **1.** сімуля́цыя, прыкі́дванне, прытво́рства; **the simulation of sympathy** прытво́рнае спачува́нне **2.** прыпадабне́нне; **a simulation fur** шту́чнае фу́тра

**simulator** [ˈsɪmjuleɪtə] *n.* трэнажóр

**simultaneity** [ˌsɪməltəˈneɪəti] *n.* аднача́снасць, адначасóвасць

**simultaneous** [ˌsɪməlˈteɪniəs] *adj.* **(with)** адначасóвы, аднача́сны; **simultaneous translation** сінхрóнны перакла́д; **be simultaneous with smth.** супада́ць у ча́се (*з чым-н.*)

**sin¹** [sɪn] *n.* **1.** грэх; **a life of sin** грэ́шнае жыццё; **commit a sin** саграшы́ць **2.** зага́на, недахóп; хі́ба; *It's a sin to stay indoors today***.** Грэх сядзець сёння дома. ♦ **as ugly as sin :** *She is as ugly as sin. infml* Яна такая страшная, як смяротны грэх; **like sin** я́расна, апанта́на, ве́льмі мóцна; *It was raining like sin.* Дождж ліў як з вядра.

**sin²** [sɪn] *v.* **(against)** грашы́ць; паруша́ць (*правілы*); **sin against the laws of society** паруша́ць закóны грама́дства

**since¹** [sɪns] *adv.* з той пары́, з таго́ ча́су; *I haven't seen him since*. Я не бачыў яго з тых часоў; **not long since** няда́ўна; **ever since** з тых часóў, уве́сь час

**since²** [sɪns] *prep.* з; **since 10 o'clock** з 10 гадзі́н

**since³** [sɪns] *conj.* **1.** з таго́ ча́су, як; *It is a long time since I saw him last*. Прайшло шмат часу з той пары, як я яго бачыў апошні раз. **2.** таму́ што, пакóлькі; *Since you are ill, I'll go alone.* Паколькі ты хворы, я паеду адзін.

**sincere** [sɪnˈsɪə] *adj.* шчы́ры, чыстасардэ́чны; **sincere friendship** сапра́ўднае сябрóўства; *It's my sincere belief that*... Я шчыра веру, што…

**sincerely** [sɪnˈsɪəli] *adv.* шчы́ра ♦ **Yours sincerely** *BrE, fml* Шчы́ра Ваш/Ва́ша (*у канцы ліста*)

**sincerety** [sɪnˈserəti] *n.* шчы́расць, чыстасардэ́чнасць; *In all sincerety I thought that*... Я і праўда лічыў, што…

**sine** [saɪn] *n. math.* сі́нус; **sine curve** сінусóіда

**sine die** [ˌsaɪnɪˈdaɪiː] *adv. fml, law, лацін.* без вызначэ́ння да́ты; **adjourn sine die** адкла́дваць на нявы́значаны тэ́рмін (*сесію, сустрэчу і да т.п.*)

**sinew** [ˈsɪnjuː] *n.* **1.** сухажы́лле, жы́ла **2.** *pl.* **sinews** мускулату́ра; фізі́чная сі́ла; моц, эне́ргія; **moral and intellectual sinew** мара́льная і інтэлектуа́льная ўстóйлівасць **3.** *lit.* аснóва, апóра; **sinews of war** ваéнны бюджэ́т

**sinewy** [ˈsɪnjuːi] *adj.* му́скулісты, жы́лісты; **a sinewy piece of beef** жы́лісты кава́лак я́лавічыны

**sinful** [ˈsɪnfəl] *adj.* грэ́шны; распу́сны; **sinful deeds** грэ́шныя спра́вы

**sing** [sɪŋ] *v.* **(sang, sung) 1. (for, to)** спява́ць; **sing to a guitar** спява́ць пад гіта́ру; **sing smb. to sleep** люля́ць, закалы́хваць кагó-н. **2.** гудзе́ць (*пра вецер*); звіне́ць (*у вушах*); свіста́ць (*пра кулю*) **3.** праслаўля́ць; **sing smb.'s/smth.'s praises** хвалі́ць, усхваля́ць кагó-н./што-н. ♦ **sing a different tune** змяні́ць тон

**sing up** [ˌsɪŋˈʌp] *phr.v. BrE* спява́ць мацне́й

**singe** [sɪndʒ] *v.* асма́льваць, смалі́ць ♦ **singe one's feathers/wings** ≅ апячы́ся на чым-н.; **singe one's reputation** псава́ць, пля́міць сваю́ рэпута́цыю

**singer** [ˈsɪŋə] *n.* **1.** спява́к; спява́чка; **a folk song singer** выкана́ўца нарóдных пе́сень **2.** пе́ўчая пту́шка; пяю́ха

**singing** [ˈsɪŋɪŋ] *n.* спе́вы; **a singing teacher** наста́ўнік спе́ваў; **take singing lessons** браць урóкі спе́ваў; **singing in the ears** звон у вуша́х

**single¹** [ˈsɪŋgl] *adj.* **1.** адзі́ны, адзі́нкавы; *There isn't a single ticket left.* Не засталося ніводнага білета. **2.** асóбна ўзя́ты; **a single bed** аднаспа́льны лóжак; **a single room** пакóй на аднагó **3.** халасты́, адзінóкі (*мужчына*) **4.** прыда́тны ў адзі́н канéц (*пра білет*); **a single ticket** біле́т у адзі́н кане́ц

**single²** [ˈsɪŋgl] *v.* раздзяля́ць; раздзяля́цца

**single out** [ˌsɪŋglˈaʊt] *phr.v.* адбіра́ць, выбіра́ць, вылуча́ць; **single out smb. for a reward** прадстаўля́ць кагó-н. да ўзнагарóды

**single-breasted** [ˌsɪŋglˈbrestɪd] *adj.* аднабóртны (*пра гарнітур*)

**single-decker** [ˌsɪŋglˈdekə] *n.* аднапавярхóвы аўтóбус

**single-handed** [ˌsɪŋglˈhændɪd] *adj.* **1.** аднару́кі **2.** які́ працу́е без дапамóгі; вы́кананы без дапамóгі; **single-handed efforts** аднабакóвыя намага́нні

**sinlge-minded** [ˌsɪŋglˈmaɪndɪd] *adj.* **1.** прастаду́шны, шчы́ры, прамы́ **2.** мэтанакірава́ны

**single parent** [ˌsɪŋglˈpeərənt] *n.* **: a single-parent family** сям'я́, у якóй заста́ўся тóлькі адзі́н з бацькóў

**singles** [ˈsɪŋglz] *n. pl.* **1.** па́ртыя (*у тэніс, гольф і да т.п.*), у якóй удзе́льнічаюць тóлькі двóе **2.** адзінóкія; **a club for singles** клуб для адзінóкіх

**singlet** [ˈsɪŋglət] *n. BrE* **1.** фуфа́йка **2.** ма́йка, наце́льнік; цяльня́шка

**singly** [ˈsɪŋgli] *adv.* асóбна, паасóбку, індывідуа́льна; **singly or in groups** паасóбку абó гру́памі

**singsong¹** [ˈsɪŋsɒŋ] *n.* **1.** чыта́нне нараспе́ў; **speak in singsong** гавары́ць нараспе́ў **2.** *BrE* спе́вы хóрам у сваéй кампа́ніі; **a singsong round the campfire** спе́вы ля вóгнішча

**sing-song²** [ˈsɪŋsɒŋ] *adj.* вы́маўлены нараспе́ў; манатóнны; **in a sing-song manner** манатóнна

**singular**[1] [ˈsɪŋgjələ] *n. ling.* **the singular** адзіно́чны лік; **in the singular** у адзіно́чным лі́ку

**singular**[2] [ˈsɪŋgjələ] *adj.* **1.** *ling.* адзіно́чны (*лік*) **2.** *fml* незвыча́йны; выклю́чны; своеасаблі́вы; рэ́дкі; **a person of singular honesty** чалаве́к выклю́чнай сумле́ннасці; **a singular adventure** дзі́ўная прыго́да

**singularity** [ˌsɪŋgjəˈlærəti] *n. fml* арыгіна́льнасць, непаўто́рнасць, своеасаблі́васць; **the singularity of manners** незвыча́йнасць мане́р

**singularly** [ˈsɪŋgjələli] *adv. fml* незвыча́йна, надзвыча́йна, асаблі́ва; **singularly honest** надзвыча́йна сумле́нны

**sinister** [ˈsɪnɪstə] *adj.* **1.** злаве́сны, ву́сцішны; няшчы́ры, ні́зкі; **a sinister influence** ке́пскі ўплы́ў; **sinister affections** гане́бныя схі́льнасці; **a sinister place** гі́блае ме́сца **2.** дрэ́нны, пага́ны, благі́; **a sinister face** пану́ры твар

**sink**[1] [sɪŋk] *n.* **1.** ра́кавіна (*водаправода*); **a kitchen sink** кухо́нная ра́кавіна; мы́йка **2.** зліў, сцёк, сцёкавы каló́дзеж; клаа́ка

**sink**[2] [sɪŋk] *v.* **(sank, sunk) 1.** тану́ць, патана́ць **2.** тапі́ць (*судна*), затапля́ць (*мясцовасць*) **3.** асяда́ць; апуска́цца; *I sank into an armchair.* Я апусці́ўся ў крэсла. **4.** па́даць; зніжа́цца (*пра цэны, фундацыі і да т.п.*); *The sun sank behind the hill.* Сонца зайшло за ўзгорак; **be sunk in smth. :** *He is sunk in depression.* Яго ахапіла дэпрэсія. ♦ **sink like a stone** тану́ць як тапо́р; **sink or swim** ≅ або́ пан або́ прапа́ў

**sinker** [ˈsɪŋkə] *n.* грузі́ла (*для рыбнай лоўлі*)

**sinless** [ˈsɪnləs] *adj. fml* бязгрэ́шны

**sinner** [ˈsɪnə] *n.* грэ́шнік; грэ́шніца; **saints and sinners** святы́я і грэ́шнікі

**sinologist** [sɪˈnɒlədʒɪst] *n.* кітаязна́вец, сіно́лаг

**sinology** [saɪˈnɒlədʒi] *n.* кітаязна́ўства, сінало́гія

**sinuosity** [ˌsɪnjuˈɒsəti] *n. fml* **1.** хва́лісты рух; зві́ліна; заві́ліна, вы́гін **2.** *pl.* **sinuosities** склада́ныя шляхі́; перыпеты́і

**sinuous** [ˈsɪnjuəs] *adj. lit.* зві́лісты, заві́лісты; крывы́, пакруча́сты; **the river's sinuous course** зві́лістае рэ́чышча ракі́

**sinus** [ˈsaɪnəs] *n. anat.*, *bot.* па́зуха

**sinusoid** [ˈsaɪnəsɔɪd] *n. math.* сінусо́іда

**sip**[1] [sɪp] *n.* глыто́к; невялі́кая ко́лькасць; **take a sip** каўтну́ць, сербану́ць, хлебану́ць, глытну́ць; **take a sip of wine** вы́піць глыто́к віна́

**sip**[2] [sɪp] *v.* паця́гваць, прыхлёбваць; піць мале́нькімі глытка́мі; сёрбаць; **sip one's coffee** прыхлёбваць ка́ву

**siphon**[1] [ˈsaɪfn] *n.* сіфо́н

**siphon**[2] [ˈsaɪfn] *v.* адка́чваць, зліва́ць сіфо́нам; **siphon water from the cellar** выка́чваць вадý з падва́ла

**siphon off** [ˌsaɪfnˈɒf] *phr.v. infml* перака́чваць; накіро́ўваць у і́ншае рэ́чышча, на і́ншыя патрэ́бы*; The big clubs siphon off all the best players*. Вялікія клубы пераманьваюць усіх лепшых ігракоў.

**sir** [sɜː] *n.* **1.** сэр; **Dear Sir** шано́ўны сэр, шано́ўны спада́р (*зварот у пачатку афіцыйнага пісьма*) **2.** сэр (*тытул*); **Sir John** сэр Джон

**sire**[1] [ˈsaɪə] *n.* вытво́рнік (*самец*)

**sire**[2] [ˈsaɪə] *v.* дава́ць пато́мства, быць вытво́рнікам

**siren** [ˈsaɪərən] *n.* **1.** сірэ́на, гудо́к **2.** *myth.* сірэ́на **3.** кава́рная спаку́сніца

**sirloin** [ˈsɜːlɔɪn] *n.* філе́й (*ялавічыны*)

**sirocco** [sɪˈrɒkəʊ] *n.* (*pl* **-os**) сіро́ка (*гарачы вільготны вецер*)

**sirup** [ˈsɪrəp] *AmE* = **syrup**

**sisal** [ˈsaɪsl] *n.* лубяно́е валакно́ «сіза́ль»; **sisal grass** валакні́стая трава́

**sissy** [ˈsɪsi] *n. infml, derog.* пясту́н, пе́ста, ма́мчын сыно́к; **sissy habits** распе́шчанасць

**sister** [ˈsɪstə] *n.* **1.** сястра́; **a full sister** ро́дная сястра́; **a big/little sister** старэ́йшая/мало́дшая сястра́ **2. Sister** *BrE* старэ́йшая медсястра́ **3. Sister** *relig.* сястра́; мана́шка

**sisterhood** [ˈsɪstəhʊd] *n.* **1.** сястры́нскія адно́сіны **2.** сёстры; бра́цтва, саю́з

**sister-in-law** [ˈsɪstərɪnlɔː] *n.* (*pl.* **sisters-in-law**) няве́стка; зало́ўка

**sisterly** [ˈsɪstəli] *adj.* **1.** сястры́нскі **2.** клапатлі́вы, ласка́вы, пяшчо́тны; **a sisterly kiss** пяшчо́тны пацалу́нак

**Sistine** [ˈsɪstiːn] *adj.* сікстсці́нскі; **Sistine Madonna** Сікстці́нская мадо́нна

**Sisyphean** [ˌsɪsɪˈfiːən] *adj.* **1.** *myth.* сізі́фаў; **Sisyphean labour** сізі́фава пра́ца **2.** дарэ́мны, ма́рны; цяжкі́ і бяско́нцы

**sit** [sɪt] *v.* **(sat) 1.** сядзе́ць; **sit cross-legged** сядзе́ць паклáўшы нагу́ на нагу́; сядзе́ць падку́рчыўшы но́гі; сядзе́ць па-турэ́цку **2.** саджа́ць, уса́джваць; **sit oneself** уса́джвацца, садзі́цца **3.** пазі́раваць; **sit for a famous painter** пазі́раваць знакамі́таму мастаку́ **4.** засяда́ць*; The House of Commons will sit at 8 o'clock*. Пасяджэнне палаты абшчын пачнецца а восьмай гадзіне. **5.** высе́джваць птушаня́т, сядзе́ць на я́йках **6.** сядзе́ць (*пра сукенку*); *The dress sits too close on the shoulders.* Сукенка цесная ў плячах. **7.** застава́цца, ляжа́ць (*на старым месцы*); *The book's still sitting on the shelf.* Кніга ўсё яшчэ на паліцы. **8.** займа́цца (*чым-н.*); сядзе́ць (*над чым-н.*); **sit for an exam** рыхтава́цца да экза́мену ♦ **sit at smb.'s feet** быць чы́м-н. ву́чнем (*паслядоўнікам*); **sit on one's**

**hands** нічо́га не рабі́ць; па́льцам не варухну́ць; **sit on the fence** займа́ць нейтра́льную пазі́цыю, чака́ць; **sit pretty** *infml* быць у вы́гадным стано́вішчы; **sit still** сядзе́ць ці́ха; паво́дзіць сябе́ мі́рна; **sit tight** мо́цна сядзе́ць, сто́йка трыма́цца; бяздзе́йнічаць

**sit about** [ˌsɪtəˈbaʊt] *phr.v.* = **sit around**

**sit around** [ˌsɪtəˈraʊnd] *phr.v.* сядзе́ць без спра́вы; *We have no time to sit around and gossip.* У нас няма часу расседжвацца і пляткарыць.

**sit back** [ˌsɪtˈbæk] *phr.v.* **1.** адкіда́цца, адкі́дnative вацца (*на спінку крэсла*) **2.** расслабля́цца, гультаява́ць

**sit down** [ˌsɪtˈdaʊn] *phr.v.* **1.** садзі́цца, займа́ць ме́сца; уса́джваць каго́-н. **2.** бра́цца (*за справу*); **sit down to one's work** бра́цца за рабо́ту **3.** міры́цца, цярпе́ць, трыва́ць; **sit down under insults** ці́ха трыва́ць абра́зы

**sit in** [ˌsɪtˈɪn] *phr.v.* **1.** дагляда́ць дзіця́, калі́ бацько́ў ня́ма до́ма **2.** засяда́ць, удзе́льнічаць у рабо́це (*камісіі*) **3.** удзе́льнічаць у сядзя́чай забасто́ўцы **4. (on)** удзе́льнічаць як нагляда́льнік, госць; *We sat in on the debate.* Мы слухалі дэбаты.

**sit out** [ˌsɪtˈaʊt] *phr.v.* **1.** сядзе́ць да канца́; **sit out a concert** заста́цца да канца́ канцэ́рта **2.** сядзе́ць убаку́, не ўдзе́льнічаць; *Let's sit this dance out.* Давай прапусцім гэты танец.

**sit through** [ˌsɪtˈθruˈ] *phr.v.* прасядзе́ць, вы́трываць

**sit up** [ˌsɪtˈʌp] *phr.v.* **1.** прыўздыма́цца; **sit up in bed** прыўзня́цца ў ло́жку **2.** ускоќваць ад здзіўле́ння; **make smb. sit up** прыму́сіць каго́-н. ускочы́ць; здзіві́ць каго́-н. **3.** не кла́сціся спаць; сядзе́ць по́зна; **sit up for smb.** чака́ць каго́-н.

**sit-down** [ˈsɪtdaʊn] *n.* сядзя́чая забасто́ўка

**sit-downer** [ˈsɪtdaʊnə] *n.* удзе́льнік сядзя́чай забасто́ўкі

**site**[1] [saɪt] *n.* **1.** ме́сца, пляц для пабудо́вы; **a building site** будаўні́чы аб'е́кт; **a camping site** пляцо́ўка для ла́гера **2.** месцазнахо́джанне; размяшчэ́нне; **the site of a battle** по́ле бі́твы **3**. *comput.* сайт

**site**[2] [saɪt] *v.* размяшча́ць; размяшча́цца; *Is it safe to site the atomic station here?* Ці бяспечна будаваць тут атамную станцыю?

**sit-in** [ˈsɪtɪn] *n.* сядзя́чая забасто́ўка; пратэ́ст; **hold a sit-in** пратэстава́ць (*седзячы*)

**sitter** [ˈsɪtə] *n.* **1.** нату́ршчык; нату́ршчыца; мадэ́ль **2.** ня́нька, сядзе́лка

**sitting** [ˈsɪtɪŋ] *n.* **1.** пасяджэ́нне; **an opening sitting** пе́ршае пасяджэ́нне; **a public sitting** адкры́тае пасяджэ́нне; се́сія (*парламента*) **2.** сеа́нс; **at a/one sitting** адны́м захо́дам, за адзі́н раз **3.** сеа́нс (*пазіравання*); **in ten sittings** за дзе́сяць сеа́нсаў

**sitting hen** [ˌsɪtɪŋˈhen] *n.* квакту́ха

**sitting room** [ˈsɪtɪŋˌrʊm] *n. BrE* гасцёўня, гасці́ная

**situate** [ˈsɪtʃueɪt] *v. fml* размяшча́ць; *The house is situated on the bank.* Дом знаходзіцца на беразе.

**situated** [ˈsɪtʃueɪtɪd] *adj.* **1.** разме́шчаны; **a badly situated village** вёска, яка́я стаі́ць у дрэ́нным ме́сцы **2.** *fml* той, хто знахо́дзіцца ў які́х-н. абста́вінах, умо́вах; **situated as I am** у маі́х абста́вінах

**situation** [ˌsɪtʃuˈeɪʃn] *n.* **1.** стано́вішча, сітуа́цыя, абста́віны, стан; **an external situation** знешнепаліты́чная сітуа́цыя; **cope with the situation** выхо́дзіць з ця́жкага стано́вішча **2.** ме́сца, месцазнахо́джанне **3.** *fml, dated* рабо́та, паса́да; **situations vacant** патрабу́юцца рабо́чыя (*аб'ява*)

**situation comedy** [sɪtʃuˌeɪʃnˈkɒmədi] *n.* каме́дыя, камеды́йны серыя́л

**six** [sɪks] *num., n.* шэсць; шасцёра; шасцёрка; **six hundred** шэсцьсо́т ♦ **at sixes and sevens** *infml* ≅ уве́рх дном, дагары́ нага́мі; у разла́дзе

**sixfold** [ˈsɪksfəʊld] *adv.* у шэсць разо́ў бо́лей, у шасцікра́тным паме́ры; **increase sixfold** павялі́чыцца ў шэсць разо́ў

**six footer** [ˌsɪksˈfʊtə] *n. infml* чалаве́к ро́стам у 6 фу́таў; прадме́т вышынёю ў 6 фу́таў

**six-pack** [ˈsɪkspæk] *n.* блок/упако́ўка з шасці́ бутэ́лек або́ бляша́нак

**sixpence** [ˈsɪkspəns] *n.* срэ́браная мане́та ў шэсць пе́нсаў

**sixpenny** [ˈsɪkspəni] *adj.* ва́ртасцю ў шэсць пе́нсаў; **a sixpenny bit/piece** шасціпянсо́вік

**sixteen** [ˌsɪksˈtiːn] *num., n.* шасна́ццаць

**sixteenth** [ˌsɪksˈtiːnθ] *num., n.* шасна́ццаты; шасна́ццатая ча́стка

**sixth** [sɪksθ] *num., n.* шо́сты; **five sixth** пяць шо́стых

**sixth-form** [ˈsɪksθfɔːm] *n. BrE* «шо́сты клас» (*апошнія два класы сярэдняй школы*)

**sixth-former** [ˈsɪksθˌfɔːmə] *n. BrE* шасцікла́снік

**sixth sense** [ˌsɪksθˈsens] *n.* «шо́стае пачуццё», інтуі́цыя

**sixtieth** [ˈsɪkstiəθ] *num., n.* шасцідзяся́ты; шасцідзяся́тая ча́стка

**sixty** [ˈsɪksti] *num., n.* шэсцьдзяся́т; **the sixties** гады́, тэмперату́ра ад 60 да 69; *He is in his sixties.* Яму за шэсцьдзясят.

**size**[1] [saɪz] *n.* паме́р, разме́р, велічыня́; аб'ём; *What size do you take?* Які размер вы носіце?; *I take size nine shoes*. Я нашу туфлі дзявятага размеру; *They are both of a size*. Яны ад-

нолькавага памеру. ♦ **that's about the size of it** *infml* вось у чым спра́ва; **cut smb. down to size** паста́віць каго́-н. на ме́сца

**size²** [saɪz] *v.* сартырава́ць па велічыні́; **size soldiers** стро́іць салда́т паво́дле ро́сту

**size up** [ˌsaɪzˈʌp] *phr.v. infml* ацэ́ньваць; **size up the situation** вы́значыць сітуа́цыю

**size³** [saɪz] *n.* клей; **size colour** клеява́я фа́рба

**size⁴** [saɪz] *v.* праклéйваць, шліхтава́ць

**siz(e)able** [ˈsaɪzəbl] *adj.* до́сыць вялі́кі, зна́чных паме́раў; **a sizeable sum of money** зна́чная су́ма гро́шай

**sizzle¹** [ˈsɪzl] *n.* шыпе́нне, шыпя́чы гук; сквірчэ́нне (*ад чаго-н., што смажыцца на агні*)

**sizzle²** [ˈsɪzl] *v.* **1.** шыпе́ць (*на патэльні*) **2.** *infml* кіпе́ць, кіпяці́цца; **sizzle with anger** кіпе́ць ад зло́сці

**skate¹** [skeɪt] *n.* **1.** канёк; **figure skates** канькі́ для фігу́рнага ката́ння; **racing skates** бегавы́я канькі́; **skate guards** чахлы́ для канькоў **2.** ро́лікавы канёк; ро́лік ♦ **get/put one's skates on** *BrE, infml* ≅ настры́ць лы́жы

**skate²** [skeɪt] *v.* **1.** ката́цца на каньках; **skate a match** удзе́льнічаць у канькабе́жным спабо́рніцтве **2.** слі́згацца, ко́ўзацца па паве́рхні; **skate over smth.** нага́дваць пра што-н. ♦ **be skating on thin ice** закрана́ць даліка́тную тэ́му; быць у ця́жкім стано́вішчы; хадзі́ць над бе́зданню

**skateboard** [ˈskeɪtbɔːd] *n.* скейтбо́рд, скейт, до́шка на ро́ліках для ката́ння на асфа́льце

**skateboarding** [ˈskeɪtbɔːdɪŋ] *n.* ката́нне на скейтбо́рдзе; скейтбо́рдынг

**skater** [ˈskeɪtə] *n.* канькабе́жац; канькабе́жка; **a short-distance skater** канькабе́жац-спры́нтар; **a speed skater** канькабе́жац-скарасні́к

**skating** [ˈskeɪtɪŋ] *n.* бег на каньках; ката́нне на каньках; канькабе́жны спорт; **free (style) skating** адво́льнае ката́нне (на каньках); **pair/single skating** па́рнае/адзіно́чнае ката́нне (на каньках); **go skating** займа́цца канькабе́жным спо́ртам; ката́цца на каньках

**skating rink** [ˈskeɪtɪŋrɪŋk] *n.* като́к, ко́ўзанка

**skedaddle** [skɪˈdædl] *v. BrE, infml* уцяка́ць, дава́ць драпака́, дава́ць лататы́

**skein** [skeɪn] *n.* **1.** мато́к (*пражы*) **2.** чарада́ дзі́кіх пту́шак (*у палёце*)

**skeleton** [ˈskelɪtn] *n.* **1.** шкіле́т, касця́к; карка́с; *He is reduced to a skeleton.* Ад яго застаўся адзін шкілет. **2.** на́кід, план, эскі́з; **the skeleton of a lecture** канспе́кт ле́кцыі; **the skeleton of a play** канва́ п'е́сы; **a skeleton map** ко́нтурная ка́рта **3.** мініма́льная ко́лькасць (*чаго-н.*) ♦ **a skeleton in the cupboard** *BrE, infml* сяме́йная таямні́ца, яка́я хава́ецца ад і́ншых

**skeleton key** [ˈskelɪtnˌkiː] *n.* адмы́чка

**skeptic** [ˈskeptɪk] *AmE* = **sceptic**

**sketch¹** [sketʃ] *n.* **1.** эскі́з, на́кід; замалёўка, эцю́д; **make a sketch** рабі́ць на́кід **2.** скетч, каро́ткі агля́д; на́рыс; **a concise sketch** каро́ткія на-та́ткі; **give a short sketch of smth.** ко́ратка апі́сваць што-н.

**sketch²** [sketʃ] *v.* рабі́ць замалёўку, эскі́з і да т.п.; **go out sketching** выязджа́ць на нату́ру; **sketch from nature** рабі́ць эскі́з з нату́ры

**sketch out** [ˌsketʃˈaʊt] *phr.v.* апі́сваць у агу́льных ры́сах; **sketch out a plan** накіда́ць план; **sketch out the situation** апіса́ць сітуа́цыю ў не́калькіх сло́вах

**sketchbook** [ˈsketʃbʊk] *n.* **1.** альбо́м для замалёвак, эцю́днік **2.** ната́тнік

**sketchily** [ˈsketʃɪli] *adv.* схематы́чна, у агу́льных ры́сах, ко́ратка; *The book treats the problems too sketchily.* У кнізе праблема разглядаецца вельмі схематычна.

**sketchmap** [ˈsketʃmæp] *n.* схематы́чная ка́рта

**sketchpad** [ˈsketʃpæd] *n.* = **sketchbook**

**sketchy** [ˈsketʃi] *adj.* **1.** схематы́чны, каро́ткі, сці́слы; **a sketchy treatment of the problem** павярхо́ўны разгля́д прабле́мы; **a sketchy knowledge of philology** павярхо́ўныя ве́ды ў філало́гіі **2.** эскі́зны, ко́нтурны ♦ **on the sketchy side** нядба́йны, няўва́жны (*пра мову*); зро́блены наспе́х, зро́блены абы́-як

**skew¹** [skjuː] *n.* нахі́л, пераќо́с; **on the skew** ко́са, у нахі́леным ста́не

**skew²** [skjuː] **1.** *v.* скажа́ць; **skew facts** скажа́ць фа́кты **2.** *BrE* адхіля́цца, зваро́чваць убо́к

**skewed** [skjuːd] *adj.* касы́, ско́шаны, перако́шаны, скасабо́чаны; скры́ўлены; **skewed statistics** скажо́ная статы́стыка

**skewer¹** [ˈskjuːə] *n.* шампу́р; невялі́кі ражо́н, во́жаг

**skewer²** [ˈskjuːə] *v.* прако́лваць; наса́джваць на ражо́н; сма́жыць на шампу́ры; *He skewered his foot on a nail.* Ён пракалоў нагу цвіком.

**ski¹** [skiː] *n.* лы́жа; **a pair of skis** лы́жы; **go on skis** хадзі́ць на лы́жах; **a ski depot** лы́жная ба́за; **ski races** лы́жныя го́нкі

**ski²** [skiː] *v.* хадзі́ць на лы́жах; **go skiing** ката́цца на лы́жах

**skid¹** [skɪd] *n.* **1.** зано́с, буксава́нне; юз; *The car went into a skid.* Машына забуксавала. **2.** падста́ўка, падпо́рка **3.** тармазны́ башма́к ♦ **be on the skids** *infml* каці́цца ўніз, права́львацца; **put the skids under smb./smth.** *infml* правалі́ць каго́-н./што-н.

**skid²** [skɪd] *v.* буксава́ць; зано́сіць убо́к; *The car skidded.* Машыну занесла ўбок.

**skidrow** [ˌskɪdˈrəʊ] *n. infml* раён прытóнаў і начлéжак; вýліца валацýг і п'яніц

**skier** [ˈskiːə] *n.* лы́жнік; лы́жніца; **a racing skier** лы́жнік-гóншчык

**skiff** [skɪf] *n.* я́лік, скіф-адзінóчка (*лодка*)

**skiffle** [ˈskɪfl] *n.* скіфл (*народныя песні 1950-х у выкананні спевака-гітарыста з імправізаваным ансамблем*)

**skiing** [ˈskiːɪŋ] *n.* лы́жны спорт; **a skiing champion** чэмпіён па лы́жным спóрце; **a skiing suit** лы́жны касцю́м; **a skiing relay** лы́жная эстафéта; **downhill skiing** скарасны́ спуск; **cross-country skiing** лы́жны крос; **hot-dog skiing** лы́жная акрабáтыка

**ski jump** [ˈskiːdʒʌmp] *n.* скачóк на лы́жах (*з трампліна*); **a ski-jump hill** гарá разгóну (*на трампліне*)

**ski jumping** [ˈskiːdʒʌmpɪŋ] *n.* скачкí на лы́жах; **a ski-jumping board** лы́жны трамплі́н

**skilful** [ˈskɪlfəl] *adj.* **(in/at)** умéлы, майстэ́рскі; *He's skilful at inventing excuses*. Ён умела прыдумвае апраўданні.

**ski lift** [ˈskiːˌlɪft] *n.* пад'ёмнік для гарналы́жнікаў

**skill** [skɪl] *n.* **(in/at) 1.** майстэ́рства, умéльства; вóпыт, спрыт; спрáўнасць; **show great skill at driving** умéла вадзíць машы́ну; **skill in debate** умéнне вéсці дэбáты; **skill in lecturing** майстэ́рства лéктара; **basic skills** галóўныя ўмéнні (*чытанне, пісьмо, падлік*) **2.** кваліфікáцыя; тáлент; прафéсія; **professional skills** прафесíйная кваліфікáцыя; **language skills** маўлéнчыя нáвыкі і ўмéнні; **skill formation** падрыхтóўка кваліфікавáных кáдраў; **creative/inventive skill** твóрчы/вынахóдніцкі тáлент; **skill in speech** дар слóва

**skilled** [skɪld] *adj.* **(in/at)** кваліфікавáны; вóпытны; майстэ́рскі; **a skilled job** кваліфікавáная прáца; **skilled labour** кваліфікавáная рабóчая сíла

**skillet** [ˈskɪlɪt] *n. AmE* = **frying pan**

**skillful** [ˈskɪləl] *AmE* = **skilful**

**skim** [skɪm] *v.* **1.** знімáць, здымáць (*накіп, вяршкі і да т.п.*); **skim milk** знімáць вяршкí абó пéнкі з малакá; **skim soup of its scum** знімáць пéну з сýпа **2.** лёгка, плáўна слíзгаць па павéрхні; *He seems to skim the ground*. Ён, здаецца, не дакранаецца да зямлі; *The bike skimmed along the road*. Веласіпед нёсся па дарозе; *Swallows were skimming over the water*. Ластаўкі лятали нізка над вадою. **3. (through/over)** бéгла праглядáць (*кнігу, спіс і да т.п.*), павярхóўна знаёміцца (*з чым-н.*); *Read carefully, don't skim!* Чытай уважліва, не прапускай!

**skim(med) milk** [ˌskɪm(d)ˈmɪlk] *n.* зня́тае малакó, перагóн

**skimmer** [ˈskɪmə] *n.* **1.** шумóўка **2.** *zool.* вадарэ́з (*птушка*)

**skimp** [skɪmp] *v.* **(on)** кéпска забяспéчваць, урэ́зваць (*у чым-н.*); скупíцца, эканóміць; *They have to skimp on fuel in winter.* Зімою ім даводзіцца эканоміць на паліве; **skimp and screw** скупíцца, скнáрнічаць; **skimp to save money** эканóміць на ўсім, каб зберагчы́ грóшы

**skimpy** [ˈskɪmpi] *adj.* недастаткóвы, бéдны, мізэ́рны; **wear skimpy skirts** насíць вýзкія спадні́цы

**skin**[1] [skɪn] *n.* **1.** скýра; шкýра; **a tender skin** далікáтная скýра; **stripped to the skin** раздзéты дагалá; **wear smth. next to the skin** насíць што-н. на гóлае цéла; **save one's skin** ратавáць сваю́ шкýру; **sleep with/in a whole skin, keep a whole skin** заставáцца цэ́лым і здарóвым **2.** шкýра, фýтра жывёлы; **the skin of a sheep** аўчы́на; **cast/shed the skin** мяня́ць скýру, ліня́ць **3**. скýра, лупíна, скýрка; **the skin of a tomato** скýрка памідóра; **peel the skin of a potato** лупíць бýльбіну; **potatoes in skins** бýльба ў мундзíрах **4.** пéнка, плéўка (*малака*) ♦ **get soaked/wet to the skin** прамóкнуць да касцéй; **get under smb.'s skin** *infml* раздражня́ць, злавáць кагó-н.; залéзці ў пячóнкý; **have a thick/thin skin** быць нечуллíвым/чуллíвым; **nothing but skin and bone** *infml* аднá скýра ды косці

**skin**[2] [skɪn] *v.* **1.** здзірáць скýру; лупíць; **skin a rabbit** здымáць шкýру з трусá; **skin an apple** здымáць з я́блыка шкýрку; **skin smb. alive** жыўцóм драць шкýру; спускáць шкýру (*з кагo-н.*); не пакідáць жывóга мéсца (*на кім-н.*); *I skinned my knee.* Я абадраў калена. **2.** зарубцóўвацца, загóйвацца; пакрывáцца тóнкаю плéўкаю; *The wound began to skin over.* Рана пачала зарубцоўвацца.

**skin-deep** [ˌskɪnˈdiːp] *adj.* павярхóўны; неглыбóкі; **a skin-deep wound** неглыбóкая рáна; **skin-deep feelings** несур'ёзныя пачýцці; **a skin-deep impression** нядóўгае ўрáжанне

**skin-diver** [ˈskɪnˌdaɪvə] *n.* **1.** аквалангíст; спартсмéн-падвóднік **2.** збóршчык жэ́мчугу

**skin-diving** [ˈskɪnˌdaɪvɪŋ] *n. sport* падвóднае плáванне, дáйвінг

**skinflint** [ˈskɪnflɪnt] *n. infml* скупéча, скупяндá, скнáра

**skinful** [ˈskɪnfəl] *n. infml* вялíкая кóлькасць, кóлькі душá жадáе; **a skinful of food** ядý кóлькі ўлéзе; **have a skinful** *BrE*, *slang* ≅ набрáцца, напíцца, нахлёбацца

**skingraft** [ˈskɪngrɑːft] *n. med.* перасáдка скýры, трансплантáцыя скýры

**skinhead** [ˈskɪnhed] *n.* **1.** кóратка пастрыжаны юнáк, малады́ чалавéк са стры́жкаю «вóжык» **2.** скíнхэд, «брытагалóвы»

**skinny** [ˈskɪni] *adj. infml, derog.* вéльмі худы́; скýра ды кóсці

**skint** [skɪnt] *n. BrE, infml* без капéйчыны ў кішэ́ні

**skin-tight** [ˌskɪnˈtaɪt] *adj.* у аблíпку, у абця́жку (*пра вопратку*)

**skip**[1] [skɪp] *n.* скачóк; **give a skip for joy** падскóчыць ад рáдасці; **hop, skip and jump** *sport* трайны́ скачóк; **skip jumping** скачкí са скакáлкаю

**skip**[2] [skɪp] *v.* **1.** *BrE* скакáць (*звычайна са скакалкай*); **skip from one subject to another** пераскóкваць з аднóй тэ́мы на íншую **2.** прапускáць (*заняткі, пасяджэнне*); *He skips as he reads*. Ён чытае не ўсё запар.

**skipper** [ˈskɪpə] *n.* **1.** шкíпер, капітáн гандлёвага сýдна **2.** *infml* капітáн спарты́ўнай камáнды

**skipping rope** [ˈskɪpɪŋrəʊp] *n. BrE* скакáлка

**skirmish**[1] [ˈskɜːmɪʃ] *n.* суты́чка, схвáтка; **border skirmishes** памéжныя суты́чкі; **domestic skirmishes** хáтнія свáркі; **fall in a skirmish** загíнуць у схвáтцы; **a skirmish of wits** барацьбá дýмак

**skirmish**[2] [ˈskɜːmɪʃ] *v.* змагáцца (*малымі групамі*); схапíцца; распачáць перастрэ́лку

**skirt**[1] [skɜːt] *n.* **1.** спаднíца; **2.** *pl.* **skirts** край, ускрáіна, мяжá; **on the skirts of the town** на ўскрáіне гóрада

**skirt**[2] [skɜːt] *v.* **1.** быць размéшчаным абó ісцí ўздоўж мяжы́; акружáць (*таксама перан.*) **2.** прахóдзіць, абыхóдзіць бóкам; быць на валасóк (*ад чаго-н.*); **skirt round death** быць на валасóк ад смéрці; *The road skirts the forest.* Дарога ідзе вакол лесу; *The sun skirted the cloud with gold.* Сонца пазалаціла край воблака. **3. skirt round a question** ухіля́цца ад пытáння;

**skirting board** [ˈskɜːtɪŋbɔːd] *n. BrE* плíнтус

**skit** [skɪt] *n.* **(on)** жарт, парóдыя (*на што-н.*), саты́ра; **a skit on the play** парóдыя на п'éсу

**skittish** [ˈskɪtɪʃ] *adj.* **1.** наравíсты, упáрты; **a skittish horse** наравíсты конь **2.** жывы́, жвáвы; какéтлівы; гарэ́злівы, гуллíвы; **get skittish** раскакéтнічыцца

**skittle** [ˈskɪtl] *n. pl.* **skittles** кéглі; **play (at) skittles** ігрáць у кéглі; ♦ **skittles!** лухтá!; **all beer and skittles** усё забáвы і пацéхі

**skittle alley** [ˈskɪtlˌæli] *n. sport* кегельбáн

**skive** [skaɪv] *v. BrE, infml* халтýрыць, сачкавáць; ухіля́цца (*ад абавязкаў*); *He skived the last lecture.* Ён уцёк з апошняй лекцыі.

**skul(l)duggery** [skʌlˈdʌgəri] *n. dated or joc.* ашукáнства, махля́рства

**skulk** [skʌlk] *v. derog.* **1.** крáсціся; прабірáцца ўпóтай/крадкóм; **skulk into the town** тайкóм прабірáцца ў гóрад; **skulk away from sight** знікáць з вачэ́й **2.** хавáцца; ухіля́цца ад абавя́зкаў; **skulk in woods** хавáцца ў лясáх; **skulk behind the laws** прыкрывáцца закóнамі

**skull** [skʌl] *n.* чэ́рап; **skull and crossbones** чэ́рап і кóсці (*эмблема смерці*) ♦ **an empty skull** пустáя галавá; **a thick skull** мéдны лоб

**skullcap** [ˈskʌlkæp] *n.* ярмóлка; цюбецéйка; каптýрык; скуфéйка (*у святароў*)

**skunk** [skʌŋk] *n.* **1.** *zool.* скунс, смярдзю́чка **2.** *infml* дрэнь, падлю́га, нягóднік

**sky** [skaɪ] *n.* **1.** нéба; **under the open sky** пад адкры́тым нéбам; **out of a clear sky** ні з тагó, ні з сягó; зусíм нечакáна; як гром з я́снага нéба **2.** *pl.* **skies** клíмат, надвóр'е; **live under bluer skies** жыць у цяплéйшым клíмаце; **the sunny skies of Italy** цудóўны клíмат Ітáліі ♦ **praise smb. to the skies** узнóсіць кагó-н. да нябёс; **the sky's the limit** *infml* ≅ канцá-бéрагу не відáць

**sky-blue** [ˌskaɪˈbluː] *adj.* блакíтны (*як неба*)

**skycap** [ˈskaɪkæp] *n. AmE* насíльшчык у аэрапóрце

**skydiver** [ˈskaɪdaɪvə] *n.* парашуты́ст; парашуты́стка

**skydiving** [ˈskaɪdaɪvɪŋ] *n.* від парашýтнага спóрту; **go skydiving** займáцца парашýтным спóртам

**sky-high** [ˌskaɪˈhaɪ] *adj., adv.* вéльмі высóкі; аж да нéба; *Prices are sky-high at the moment.* Цяпер цэны вельмі высокія.

**skyjacker** [ˈskaɪdʒækə] *n.* павéтраны пірáт, выкрадáльнік самалётаў

**skylark** [ˈskaɪlɑːk] *n. zool.* палявы́ жáваранак, жаўрýк

**skylight** [ˈskaɪlaɪt] *n.* светлавы́ люк, акнó ў дáху

**skyline** [ˈskaɪlaɪn] *n.* **1.** бáчны далягля́д; лíнія далягля́ду; небасхíл, небакрáй; **the London skyline** небасхíл над Лóнданам **2.** абры́сы (*на фоне неба*)

**skyrocket** [ˈskaɪˌrɒkɪt] *n.* сігнáльная ракéта

**skyscraper** [ˈskaɪˌskreɪpə] *n.* хмарачóс, небаскрóб, небася́г

**skyward(s)** [ˈskaɪwəd(z)] *adv.* у нéба, увы́сь, угарý

**slab** [slæb] *n.* **1.** скрыль, кавáлак; **a slab of cheese** кавáлак сы́ру **2.** плітá; **a marble slab** мармурóвая плітá

**slack**[1] [slæk] *n.* сла́бая, ке́пска напя́тая ча́стка (*чаго-н.*) ♦ **take up the slack** 1) напіна́ць (*вяроўку, канат і да т.п.*) 2) рацыяналізава́ць (*вытворчасць*)

**slack**[2] [slæk] *adj.* **1.** ненапя́ты (*канат, вяроўка і да т.п.*) **2. (at/about)** сла́бы; вя́лы, мля́вы, мару́дны; **get slack** расслабля́цца; **slack in duty** нядба́йны

**slack off** [ˌslækˈɒf] *phr.v.* слабе́ць; памянша́цца; **slack off one's efforts** паслабля́ць намага́нні; збаўля́ць ху́ткасць; **slack off one's labour** працава́ць з ме́ншым імпэ́там; *The rain slacked off.* Дождж сціх.

**slack up** [ˌslækˈʌp] *phr.v.* = **slack off**

**slacken** [ˈslækən] *v.* **1.** аслабля́ць, развя́зваць, адпуска́ць; **slacken the reins** адпуска́ць ле́йцы **2.** запаво́льваць, прыцí́шваць; *Slacken your speed!* Збаў хуткасць!

**slacker** [ˈslækə] *n. infml* лайда́к, гульта́й, абібо́к

**slacks** [slæks] *n. pl. dated or AmE, fml* шыро́кія штаны́, нагаві́цы, сла́ксы

**slag** [slæg] *n.* шлак

**slagheap** [ˈslæghiːp] *n. BrE* шла́кавы адва́л; тэрыко́н (*у гарах*)

**slain** [sleɪn] *p.p.* → **slay**

**slalom** [ˈslɑːləm] *n. sport* сла́лам; **giant slalom** сла́лам-гіга́нт

**slalomist** [ˈslɑːləmɪst] *n. sport* слалamí́ст

**slam**[1] [slæm] *n.* стук (*дзвярэй*); мо́цнае бра́зганне, гру́канне; **close a door with a slam** з шу́мам зачыні́ць дзве́ры

**slam**[2] [slæm] *v.* **1.** зачыня́ць; зачыня́цца з трэ́скам **2.** кіда́ць з гру́катам, шпурля́ць; **slam the door in smb.'s face** зачыні́ць дзве́ры пе́рад са́мым но́сам **3.** *infml* рэ́зка крытыкава́ць; разно́сіць каго́-н./што-н.; *The play was slammed by the reviewers.* Крытыкі зрабілі п'есе разнос.

**slander**[1] [ˈslɑːndə] *n.* паклёп, ілжы́вае абвінава́чанне; **a vicious slander** зло́сны паклёп

**slander**[2] [ˈslɑːndə] *v.* паклёпнічаць, чарні́ць, нагаво́рваць

**slanderous** [ˈslɑːndərəs] *adj.* паклёпніцкі; абра́злівы; **slanderous remarks** абра́злівыя заўва́гі

**slang**[1] [slæŋ] *n.* слэнг, жарго́н; **use slang** гавары́ць на жарго́не

**slang**[2] [slæŋ] *v. infml* сварыцца, зневажа́ць, ла́яцца; **a slanging match** *BrE, infml* ла́янка, сва́рка

**slangy** [ˈslæŋi] *adj.* жарго́нны, вульга́рны, прастамо́ўны; **slangy style** вульга́рны стыль

**slant**[1] [slɑːnt] *n.* **1.** касізна́, схіл, нахі́л, спад, скос; **on the/a slant** ко́са, у нахі́леным ста́не; **a slant of the eyes** касы́ разрэз вачэ́й **2.** каса́я лí́нія, «дроб» (/) **3.** *infml* **(on)** схі́льнасць; пазí́цыя; пункт гле́джання; **a slant on the question** падыхо́д да пыта́ння

**slant**[2] [slɑːnt] *v.* **1.** нахіля́ць; нахіля́цца; адхіля́ць; адхіля́цца; **slant off from the road** адхілí́цца ад даро́гі; *His handwriting slants from left to right.* Ён піша з нахілам управа. **2.** асвятля́ць тэндэнцы́йна; скажа́ць, перакру́чваць (*факты*)

**slanted** [ˈslɑːntɪd] *adj.* перакру́чаны, скажо́ны; **a rather slanted account of the meeting** пераkру́чаныя фа́кты пра мí́тынг

**slantwise** [ˈslɑːntwaɪz] *adv.* ко́са, кры́ва, з нахí́лам; наўскася́к

**slap**[1] [slæp] *n.* пляска́ч; **give smb. a slap** даць каму́-н. плескача́/по́ўху ♦ **a slap in the face** по́ўха, аплявуха; **a slap on the wrist** *infml* папярэ́джанне; **slap and tickle** *BrE, infml, dated* шу́мная валтузня́

**slap**[2] [slæp] *v.* **1.** шлёпаць, пля́скаць, ля́паць; *He slapped my hand.* Ён ляснуў мяне па руцэ. **2.** плёскаць; *The water slapped against the boat.* Вада плёскала аб лодку.

**slap down** [ˌslæpˈdaʊn] *phr.v.* **1.** шпурля́ць, кіда́ць **2.** *infml* абарва́ць (*размову*); асадзí́ць каго́-н.

**slap**[3] [slæp] *adv. infml* **1.** стрымгало́ў; кулём; неразва́жліва, неабду́мана; **rush slap into a bog** з разбе́гу бу́хнуцца ў ба́гну **2.** якра́з; *She stood slap in the middle of the path.* Яна стаяла якраз на сярэдзіне сцежкі.

**slap-bang** [ˌslæpˈbæŋ] *n. infml* = **slap**[3]

**slapdash** [ˈslæpdæʃ] *adv.* стрымгало́ў; абы-я́к, як папа́ла; на ху́ткую руку́; **do one's work slapdash** працава́ць як папа́ла

**slap-happy** [ˌslæpˈhæpi] *adj. infml* бестурбо́тны, бесклапо́тны, бесшаба́шны; *He is too slap-happy in his attitude to schoolwork.* Ён занадта бесклапотна ставіцца да працы ў школе.

**slapstick** [ˈslæpstɪk] *n.* гру́бы фарс, балага́н

**slap-up** [ˌslæpˈʌp] *adj. BrE, infml* шыко́ўны; **have a slap-up lunch at a city restaurant** шыко́ўна паабе́даць у гарадскí́м рэстара́не

**slash**[1] [slæʃ] *n.* **1.** рэ́зкі ўдар; уда́р наво́дмаш (*шабляю*) **2.** глыбо́кая ра́на; рубе́ц **3.** разрэ́з (*у адзежы*); **slashes in the sleeves** разрэ́зы на рукава́х **4.** знак (/)

**slash**[2] [slæʃ] *v.* **1.** паласава́ць, сячы́ (*шабляю*); **slash at smth. (with smth.)** лупцава́ць, хваста́ць што-н. (*чым-н.*); **slash one's way through/past smth.** праклада́ць сабе́ шлях, паласу́ючы ша́бляю напра́ва і нале́ва **2.** зніжа́ць (*цэны*); рэ́зка скарача́ць; **slash the text of a speech** мо́цна скарача́ць тэкст прамо́вы **3.** рабі́ць разрэ́зы (*у адзенні*) **4.** рэ́зка крытыкава́ць

**slat** [slæt] *n.* пераклáдзіна, плáнка; філёнга; **slats of a Venetian blind** плáнкі жалюзí

**slate**[1] [sleɪt] *n.* **1.** *geol.* слáнец **2.** шы́фер **3.** *AmE* спіс кандыдáтаў (*для выбараў*) ♦ **a clean slate** бездакóрная рэпутáцыя; **put smth. on the slate** запíсваць што-н. у крэды́т

**slate**[2] [sleɪt] *v.* **1.** пакрывáць шы́ферам, шы́фернаю плíткаю **2.** *AmE, infml* занóсіць у спіс кандыдáтаў; прызначáць (*на які-н. час*); **a meeting slated for Tuesday** сустрэ́ча, запланавáная на аўтóрак **3.** *BrE, fml* крытыкавáць (*асабліва ў газеце*)

**slaughter**[1] [ˈslɔːtə] *n.* **1.** забóй, забівáнне; зарэ́з (*жывёлы*); **for slaughter** на забóй **2.** разня́, мáсавае забóйства; кровапралíцце; **the slaughter on the roads** смярóтнасць на дарóгах

**slaughter**[2] [ˈslɔːtə] *v.* **1.** забівáць, рэ́заць (*жывёлу*) **2.** учыня́ць мáсавае забóйства; бязлíтасна забівáць **3.** *infml* разбівáць у пух і прах/ушчэ́нт/датлá

**slaughterhouse** [ˈslɔːtəhaʊs] *n.* бóйня

**Slav** [slɑːv] *n.* славянíн; славя́нка; **the Slavs** славя́не

**slave**[1] [sleɪv] *n.* **1.** раб; рабы́ня; нявóльнік; нявóльніца; **slave labour** паднявóльная прáца **2. (of/to)** ахвя́ра, раб (*ідэй, чужой волі і да т.п.*); *She's a slave to fashion.* Яна па-рабску пераймае моду.

**slave**[2] [sleɪv] *v.* **(at)** працавáць да знямóгі, надрывáцца; **slave for the master** працавáць на гаспадарá; працавáць паднявóльна

**slave driver** [ˈsleɪvˌdraɪvə] *n.* нагля́дчык (*над рабамі*); бязлíтасны працадáвец; паганя́ты

**slaver**[1] [ˈsleɪvə] *n.* **1.** гандля́р рабáмі **2.** карабéль з рабáмі

**slaver**[2] [ˈslævə] *v.* слíніць, пускáць слíну

**slavery** [ˈsleɪvəri] *n.* **1.** рáбства, нявóльніцтва; **sell smb. into slavery** прадавáць кагó-н. у рáбства **2.** ця́жкая паднявóльная прáца

**slave trade** [ˈsleɪvˌtreɪd] *n.* гáндаль рабáмі

**Slavic**[1] [ˈslɑːvɪk] *n.* славя́нская мóва

**Slavic**[2] [ˈslɑːvɪk] *adj.* славя́нскі

**Slavicist** [ˈslɑːvɪsɪst] *n.* славíст

**slavish** [ˈsleɪvɪʃ] *adj. derog.* нявóльніцкі; рáбскі; **slavish imitation** рáбскае пераймáнне (*моды, манер і да т.п.*); **a slavish yes-man** ліслíвы падхалíм

**Slavonian**[1] [sləˈvəʊniən] *n.* славянíн; славя́нка

**Slavonian**[2] [sləˈvəʊniən] *adj.* славя́нскі

**Slavonic**[1] [sləˈvɒnɪk] *n.* славя́нская мóва; **Old/Church Slavonic** старaславя́нская/царкóўнаславя́нская мóва

**Slavonic**[2] [sləˈvɒnɪk] *adj.* славя́нскі

**Slavonic studies** [sləˌvɒnɪkˈstʌdiz] *n.* славíстыка

**Slavophil** [ˈslɑːvəfɪl] *n.* славянафíл

**slay** [sleɪ] *v.* **(slew, slain)** *fml* забівáць; **be slain in battle** загíнуць у баí

**sleazy** [ˈsliːzi] *adj. infml* **1.** неахáйны; **a sleazy appearance** непрывáбны вы́гляд **2.** непрыстóйны; пóдлы, нíзкі; **sleazy political methods** непрыстóйныя паліты́чныя махінáцыі

**sled(ge)**[1] [sledʒ] *n.* сáні, сáнкі

**sled(ge)**[2] [sledʒ] *v.* **1.** катáцца/вазíцца на сáнках; **go sledging** вазíцца на сáнках (*асабліва з гары*)

**sledgehammer** [ˈsledʒˌhæmə] *n.* кузнéчны/кавáльскі мóлат ♦ **use a sledgehammer to crack a nut** ≅ біць з гармáты па вераб'я́х

**sleek**[1] [sliːk] *adj.* глáдкі, ільсняны́, прыглáджаны; **sleek hair** прылíзаныя валасы́; **a sleek horse** пялéгаваны, даглéджаны конь ♦ **as sleek as a cat** глáдкі як кот; ліслíвы

**sleek**[2] [sliːk] *v.* навóдзіць лоск, глянец; прыглáджваць, прылíзваць (*валасы*)

**sleep**[1] [sliːp] *n.* **1.** сон; **a sound sleep** мóцны сон; **get to sleep** заснýць; **get enough sleep** высыпáцца; **go to sleep** засынáць; **send smb. to sleep** уклáдваць кагó-н. спаць **2.** *poet.* вéчны сон, смерць ♦ **put animals to sleep** усыпля́ць жывёл

**sleep**[2] [sliːp] *v.* **(slept) 1.** спаць; **sleep the clock round** спаць цэ́лы дзень **2.** давáць, забяспéчваць начлéг; *This hotel sleeps 300 men.* Гэты гатэль прымае 300 чалавек. ♦ **let sleeping dogs lie** ≅ не будзí лíха, пакýль спіць цíха; **not sleep a wink :** *I didn't sleep a wink.* Я не звёў вачэй; **sleep like a log/a baby** *infml* спаць мёртвым сном; спаць як дзіця́тка

**sleep around** [ˌsliːpəˈraʊnd] *phr.v. infml* распýснічаць, гуля́ць з кім папáла

**sleep away** [ˌsliːpəˈweɪ] *phr.v.* праспáць*; He slept the morning away.* Ён праспаў усю раніцу.

**sleep off** [ˌsliːpˈɒf] *phr.v.* праспáцца, адаспáцца; **sleep off a hangover** вы́цверазіцца; *I slept off my headache.* Я паспаў, і галаўны боль прайшоў.

**sleep out** [ˌsliːpˈaʊt] *phr.v.* не начавáць дóма

**sleeper** [ˈsliːpə] *n.* **1. : a light/heavy sleeper** лёгкі/ця́жкі на пад'ём; *I'm a bad sleeper.* У мяне кепскі сон. **2.** спáльны вагóн **3.** *BrE* шпáла (*чыгункі*)

**sleeping bag** [ˈsliːpɪŋˌbæg] *n.* спáльны мяшóк

**sleeping car** [ˈsliːpɪŋˌkɑː] *n.* спáльны вагóн-купэ́

**sleeping compartment** [ˈsliːpɪŋkəmˌpɑːtmənt] *n.* спáльны вагóн-купэ́

**sleeping partner** [ˌsliːpɪŋˈpɑːtnə] *n. BrE* пасíўны партнёр кампáніі

**sleeping pill** [ˈsliːpɪŋˌpɪl] *n.* снатвóрная таблéтка, таблéтка на сон

**soul mate** [ˈsəʊlˌmeɪt] *n.* шчы́ры ся́бар; шчы́рая сябро́ўка

**soul-searching** [ˈsəʊlˌsɜːtʃɪŋ] *n.* самакрыты́чны ана́ліз сваі́х дзе́янняў; пераацэ́нка кашто́ўнасцей

**sound¹** [saʊnd] *n.* **1.** гук, гуча́нне; го́ман, шум; **without a sound** бязгу́чна, бясшу́мна*; Not a sound was heard.* Не было чутно ні гуку; *Sounds carry well in this hall.* У гэтай зале добрая акустыка. **2.** *ling.* гук; тон; **consonant sounds** зы́чныя; **vowel sounds** гало́сныя **3.** значэ́нне, змест; ура́жанне; *I didn't like the sound of it.* Мне гэта не спадабалася. **4.** мяжа́ чу́тнасці ♦ **within (the) sound of smth.** *BrE* у ме́жах чу́тнасці чаго́-н.; недалёка, як руко́ю пада́ць да чаго́-н.

**sound²** [saʊnd] *adj.* **1.** здаро́вы, мо́цны; **sound teeth** мо́цныя зу́бы; **a man of sound constitution** чалаве́к мо́цнага скла́ду; **a sound sleep** мо́цны, глыбо́кі сон **2.** разу́мны, пра́вільны, лагі́чны; **a sound argument** пераканаў́чы до́каз; **morally sound** мара́льна ўсто́йлівы; **sound advice** разу́мная пара́да **3.** дабрая́касны; **sound fruit** све́жая садаві́на; **a sound machine** спра́ўная машы́на **4.** надзе́йны, усто́йлівы (*у фінансавых справах*) **5.** уме́лы, до́бры; **a sound tennis-player** до́бры тэнісі́ст **6.** *infml* мо́цны; **give a sound flogging** до́бранька адлупцава́ць ♦ **(as) sound as a bell** *infml* ≅ здаро́вы як бык; **sound in life and limb** *dated or joc.* жывы́; ≅ цэ́лы і здаро́вы

**sound³** [saʊnd] *v.* **1.** гуча́ць*; The doorbell sounded.* Зазваніў званок; *Her voice sounded troubled.* У яе голасе адчувалася хваляванне. **2.** дава́ць сігна́л; **sound a bell** звані́ць у звані́; **sound the alarm** біць трыво́гу **3.** рабі́ць ура́жанне, здава́цца; *How does this proposal sound to you?* Як вам гэтая прапанова?; *That sounds like an excuse.* Гэта падобна да адгаворкі. **4.** вымаўля́ць; *This letter is not sounded.* Гэтая літара не вымаўляецца. **5.** *med.* выслухо́ўваць, высту́кваць; *You must have your chest sounded.* Трэба праверыць вашу грудную клетку.

**sound off** [ˌsaʊndˈɒf] *phr.v. derog.* мало́ць языко́м, выхваля́цца

**sound out** [ˌsaʊndˈaʊt] *phr.v.* выве́дваць (*у каго-н.*)

**sound⁴** [saʊnd] *adv.* мо́цна; **be sound asleep** мо́цна спаць

**sound⁵** [saʊnd] *n.* **1.** пралі́ў **2.** ву́зкі залі́ў, фіёрд; **the Plymouth Sound** Плі́муцкі залі́ў

**sound barrier** [ˈsaʊndˌbæriə] *n. phys.* гукавы́ бар'е́р

**sound effects** [ˈsaʊndɪˌfekts] *n. pl.* гукавы́я эфе́кты

**sound film** [ˈsaʊndˌfɪlm] *n.* гукавы́ фільм

**soundings** [ˈsaʊndɪŋz] *n.* **1.** вымярэ́нні глыбіні́, зандзі́раванне; **underwater soundings** падво́днае зандзі́раванне **2.** *pl.* выве́дванне; **take soundings** зандзі́раваць, нама́цваць (*глебу*)

**soundly** [ˈsaʊndli] *adv.* **1.** сур'ёзна, абгрунтава́на; **a soundly based argument** до́бра абгрунтава́ны аргуме́нт **2.** мо́цна, непрабу́дна, без про́сыпу; **sleep soundly** мо́цна спаць

**soundproof** [ˈsaʊndpruːf] *adj.* гуканепранікáльны; **a soundproof studio** сту́дыя з гуканепраніка́льнымі сцéнамі

**sound system** [ˈsaʊndˌsɪstɪm] *n.* музы́чны цэнтр

**soundtrack** [ˈsaʊndtræk] *n.* фанагра́ма, гукава́я даро́жка

**sound wave** [ˈsaʊndweɪv] *n.* гукава́я хва́ля

**soup** [suːp] *n.* суп; **clear soup** по́ліўка, булён, расо́л; **fish soup** юшка; **vegetable (cabbage) soup** суп з гаро́дніны; **soup in cakes** суп у ку́біках; **packet soups** суп у паке́ціках ♦ **in the soup** *infml* у кло́патах, у турбо́тах

**soup up** [ˌsuːpˈʌp] *phr.v. infml* павыша́ць магу́тнасць (*матора, рухавіка*), павыша́ць ху́ткасць (*самалёта, ракеты*); ажыўля́ць (*гульню, п'есу*)

**soup kitchen** [ˈsuːpˌkɪtʃɪn] *n.* бяспла́тная стало́вая (*дзе выдаецца суп беднякам і беспрацоўным*)

**soupplate** [ˈsuːppleɪt] *n.* глыбо́кая тале́рка

**sour¹** [ˈsaʊə] *adj.* **1.** кі́слы, пракі́слы; **sour pickles** марынава́ныя гуркі́; пі́кулі; **smell sour** аддава́ць кісля́цінай **2.** пану́ры, сярдзі́ты; зло́сны, зласлі́вы; у ке́пскім настрóі; *What a sour face she has!* Што за кіслы ў яе выгляд!; *Pleasure turned sour on him.* Пацехі абрыдлі яму. ♦ **go/turn sour** кі́снуць, пракіса́ць; псавацца; **sour grapes** прытво́рнае грэ́баванне чым-н. недасяга́льным

**sour²** [ˈsaʊə] *v.* **1.** пракіса́ць, закіса́ць; *The hot weather soured the milk.* Ад гарачыні малако скісла. **2.** станаві́цца пану́рым, быць незадаво́леным; *He was soured by misfortunes.* Няўдачы зрабілі яго змрочным.

**source** [sɔːs] *n.* **1.** вы́ток; крыні́ца; *Where is the source of the Thames?* Адкуль выцякае Тэмза? **2.** пача́так, вы́ток; прычы́на; **a source of inspiration** прычы́на натхне́ння; **a source of funds** крыні́ца фінансава́ння; **cut off the evil at its source** задушы́ць зло ў яго́ заро́дку **3.** дакуме́нт, пісьмо́вая крыні́ца; **historical sources** гістары́чныя крыні́цы; **original sources**

першакрыні́цы; **trace one's sources** вывуча́ць сваё пахо́джанне, знахо́дзіць сваé карані́
**sour cream** [ˌsaʊəˈkriːm] *n.* смята́на
**sour-crout** [ˈsaʊəkraʊt] *n.* ква́шаная капу́ста
**soused** [saʊst] *adj.* прамо́клы, вы́мачаны; марынава́ны; **soused herring** марынава́ныя селядцы́
**south**[1] [saʊθ] *n.* **1.** по́ўдзень; **face/overlook south** глядзе́ць на по́ўдзень (*пра акно*) **2.** паўднёвая ча́стка, паўднёвы раён; **the south of France** по́ўдзень Фра́нцыі **3.** паўднёвыя краі́ны (*Еўропы*); паўднёвыя шта́ты (*ЗША*)
**south**[2] [saʊθ] *adj.* паўднёвы; **South Wales** Паўднёвая Ва́лія; **the South Pacific** паўднёвая ча́стка Ці́хага акія́на
**south**[3] [saʊθ] *adv.* **1.** на по́ўдзень, у паўднёвым напра́мку; **south of Scotland** на по́ўдзень ад Шатла́ндыі; **down south** *infml* на по́ўдзень **2.** з поўдня (*пра вецер*); *The wind blows south.* Вецер дзьме з поўдня.
**southbound** [ˈsaʊθbaʊnd] *adj.* які́ ідзе́ на по́ўдзень; **a southbound train** цягні́к паўднёвага напра́мку
**south-east** [ˌsaʊθˈiːst] *n., adj., adv.* паўднёвы ўсход; паўднёва-ўсхо́дні; на паўднёвы ўсход; **live in the South-East** жыць на паўднёвым усхо́дзе
**south-eastern**[1] [ˌsaʊθˈiːstən] *n.* паўднёва-ўсхо́дні ве́цер, зюйд-ост
**south-eastern**[2] [ˌsaʊθˈiːstən] *adj.* паўднёва-ўсхо́дні
**south-easterly** [ˌsaʊθˈiːstəli] *adj.* паўднёва-ўсхо́дні; **a south-easterly direction** паўднёва-ўсхо́дні напра́мак; **a south-easterly air flow** перамяшчэ́нне паве́тра з паўднёвага ўсхо́ду
**southerly** [ˈsʌðəli] *adj.* паўднёвы; **the southerly latitude** паўднёвая шырата́; *The room has a southerly aspect.* Пакой выходзіць на поўдзень.
**southern** [ˈsʌðən] *adj.* паўднёвы; **the southern states of the USA** паўднёвыя шта́ты ЗША; **the Southern Hemisphere** паўднёвае паўша́р'е
**southerner** [ˈsʌðənə] *n.* жыха́р по́ўдня; жыха́рка по́ўдня
**southernmost** [ˈsʌðənməʊst] *adj.* са́мы паўднёвы
**South Pole** [ˌsaʊθˈpəʊl] *n.* Паўднёвы по́люс
**southward(s)** [ˈsaʊθwəd(z)] *adv.* на по́ўдзень; **drive southwards** е́хаць у паўднёвым напра́мку
**south-west** [ˌsaʊθˈwest] *n., adj., adv.* паўднёвы за́хад; паўднёва-захо́дні; на паўднёвы за́хад; **a south-west wind** паўднёва-захо́дні ве́цер; зюйд-вест
**south-wester** [ˌsaʊθˈwestə] *n.* **1.** паўднёва-захо́дні ве́цер; зюйд-вест **2.** непрамака́льная ша́пка, зюйдве́стка (*у маракоў*)
**south-westerly** [ˌsaʊθˈwestəli] *adj.* паўднёва-захо́дні; **a south-westerly direction** паўднёва-захо́дні напра́мак
**south-western** [ˌsaʊθˈwestən] *adj.* паўднёва-захо́дні
**souvenir** [ˌsuːvəˈnɪə] *n.* сувені́р, па́мятка; **a souvenir shop** магазі́н сувені́раў; *Take it as a souvenir of the occasion.* Вазьміце гэта як памяць пра падзею.
**sou'wester** [ˌsaʊˈwestə] *n.* = **south-wester**
**sovereign**[1] [ˈsɒvrɪn] *n.* **1.** *fml* мана́рх; суверэ́н; праві́цель, валада́р **2.** саверэ́н (*залатая манета = 1 фунту стэрлінгаў*)
**sovereign**[2] [ˈsɒvrɪn] *adj.* **1.** вярхо́ўны, вышэ́йшы; **sovereign power** вярхо́ўная ўла́да **2.** *fml* суверэ́нны, незале́жны; **become a sovereign state** стаць суверэ́ннай дзяржа́вай **3.** *fml* цудо́ўны; **a sovereign remedy** эфекты́ўны сро́дак; **a sovereign joke** бліску́чы жарт
**sovereignty** [ˈsɒvrənti] *n.* *fml* **1.** найвышэ́йшая ўла́да; **the sovereignty of the people** ула́да, яка́я нале́жыць наро́ду **2.** суверэ́ннасць, суверэнітэ́т, незале́жнасць; **exercise sovereignty** здзяйсня́ць пра́ва суверэнітэ́ту; **encroach upon smb.'s sovereignty** рабі́ць зама́х на права́ чыйго́-н. суверэнітэ́ту
**soviet**[1] [ˈsəʊviət] *n.* саве́т (*орган улады*); **the Supreme Soviet** Вярхо́ўны Саве́т; **the Soviets** Саве́ты; **under the Soviets** пад Саве́тамі, пры Саве́тах; **village soviets** сельсаве́ты
**soviet**[2] [ˈsəʊviət] *adj.* саве́цкі; **the Soviet Union** *hist.* Саве́цкі Саю́з
**sow**[1] [saʊ] *n.* свіння́; свінама́тка, паро́сная свіння́
**sow**[2] [səʊ] *v.* **(sowed, sown** *or* **sowed) 1.** се́яць; высява́ць, засе́йваць; **sow a field with wheat** засе́яць по́ле пшані́цаю; *The sky was sown with stars.* Неба было ўсеяна зоркамі. **2.** распаўсю́джваць, се́яць; **sow doubt** се́яць сумне́нне; **sow enemity** се́яць варо́жасць ♦ **sow one's wild oats** перашале́ць; **as a man sows, so shall he reap** што пасе́еш, то́е і пажне́ш; **to sow the wind and to reap the whirlwind** пасе́еш ве́цер – пажне́ш бу́ру
**sower** [ˈsəʊə] *n.* **1.** се́йбіт **2.** се́ялка
**sowing machine** [ˈsəʊɪŋməˌʃiːn] *n.* се́ялка
**sown** [səʊn] *p.p.* → **sow**[2]
**soya** [ˈsɔɪə] *n. bot.* со́я; **a soya bean** зе́рне со́і; **soya sauce** со́евы со́ус
**sozzled** [ˈsɒzld] *adj. BrE, slang* які́ нализа́ўся; *He got sozzled!* Але ж ён і нажлукці́ўся!
**sp** (*пісьмовае скар. ад* **spelling**) арфагра́фія (*памета пры праверцы пісьмовых работ*)
**spa** [spɑː] *n.* куро́рт з мінера́льнымі во́дамі; мінера́льная крыні́ца; **spa waters** мінера́ль-

ныя во́ды; **take the waters at a spa** лячы́цца на мінера́льных во́дах

**space**[1] [speɪs] *n.* **1.** праме́жак, ме́сца, інтэрва́л; **type single/double space** друкава́ць праз адзін інтэрва́л/два́ інтэрва́лы; *There is a space here for your signature.* Вось месца для подпісу. **2.** плóшча, ме́сца, прасто́ра; **a space of ten feet** адле́гласць у дзе́сяць фу́таў; **clear a space for smth.** пакі́нуць ме́сца для чаго́-н.; **a parking space** ме́сца для стая́нкі (*машын*); *There isn't much space left.* Засталося мала месца. **3.** прасто́ра, абша́р, ко́смас; **open/deep space** адкры́ты ко́смас; **a space flight** касмі́чны палёт **4.** пеpы́яд ча́су; **in the space of a year** на працягу аднаго́ го́да; *I have a space in my time-table.* Я маю фортку ў раскладзе.

**space**[2] [speɪs] *v.* размяшча́ць; пакіда́ць праме́жкі, раздзяля́ць; *Space the desks two metres apart.* Пастаў сталы на адлегласці два метры адзін ад аднаго.

**space-age** [ˈspeɪsˌeɪdʒ] *adj. infml* суча́сны, перадавы́, мо́дны; **space-age technology** суча́сная тэхнало́гія

**space bar** [ˈspeɪsˌbɑː] *n.* кла́віша для інтэрва́лаў (*у камп'ютары*)

**spacecraft** [ˈspeɪskrɑːft] *n.* (*pl.* **spacecraft**) касмі́чны карабе́ль

**space invaders** [ˈspeɪsɪnˌveɪdəz] *n. pl.* камп'ю́тарная гульня́ «Прышэ́льцы з ко́смасу»

**spaceman** [ˈspeɪsmən] *n.* (*pl.* **-men**) касмана́ўт

**spaceship** [ˈspeɪsʃɪp] *n.* = **spacecraft**

**space shuttle** [ˈspeɪsˌʃʌtl] *n.* чаўно́чны паве́трана-касмі́чны апара́т

**space station** [ˈspeɪsˌsteɪʃn] *n.* касмі́чная ста́нцыя

**space suit** [ˈspeɪsˌs(j)uːt] *n.* скафа́ндр

**spacewalk** [ˈspeɪswɔːk] *n.* вы́хад у адкры́ты ко́смас

**spacewoman** [ˈspeɪswʊmən] *n.* (*pl.* **-women**) жанчы́на-касмана́ўт

**spacing** [ˈspeɪsɪŋ] *n.* інтэрва́л, адле́гласць; **type with double spacing** друкава́ць праз два інтэрва́лы

**spacious** [ˈspeɪʃəs] *adj.* прасто́рны; вялі́зны; ёмісты; шыро́кі; **a spacious hall** прасто́рная за́ла; **spacious mind** высо́кі інтэле́кт; **a spacious approach to a problem** шыро́кі по́гляд на прабле́му

**spade** [speɪd] *n.* рыдлёўка, лапа́та ♦ **call a spade a spade** ≅ называ́ць рэ́чы сваі́мі імёнамі

**spades** [speɪdz] *n. pl.* ві́ны, пі́кі (*пра карты*); **a queen of spades** пі́кавая да́ма ♦ **in spades** *infml* мо́цна, у вышэ́йшай ступе́ні

**spadework** [ˈspeɪdwɜːk] *n.* працаёмкая рабо́та; *She did all the spadework at the office.* Яна выконвала ўсю чорную працу ў офісе.

**spaghetti** [spəˈgeti] *n.* спаге́ці

**spam** [spæm] *n.* **1.** кансервава́ны каўба́сны фарш **2.** *comput.* сме́цце (*пра інфармацыю*)

**span**[1] [spæn] *n.* **1.** праме́жак (*часу*), інтэрва́л; **the average span of life** сярэ́дняя працяглась жыцця́; *Man's life is but a span.* Чалавечае жыццё кароткае. **2.** пралёт (*моста*), адле́гласць ад аднаго́ канца́ да друго́га; шырыня́ (*ракі*); *The bridge crosses the river in a single span.* Мост паміж берагамі ракі ў адзін пралёт. **3.** *dated* пя́дзя, спэн (*22,8 см*) **4.** разма́х; **a wing span** разма́х кры́лаў

**span**[2] [spæn] *v.* **1.** перакрыва́ць (*пра арку*), наво́дзіць мост, перапра́ву; злуча́ць берагі́ (*пра мост*); запаўня́ць (*прамежак*); *The Thames is spanned by many bridges.* Праз Тэмзу перакінута шмат мастоў. **2.** уключа́ць, ахо́пліваць; *His knowledge spans many different areas.* Ён мае шматбаковыя веды. **3**. ме́раць, вымяра́ць пя́дзяю; *Can you span an octave on the piano, please.* Вазьмі, калі ласка, актаву (*адной рукою*).

**spangle** [ˈspæŋgl] *v.* **(with) 1.** пакрыва́ць блішчы́нкамі, расшыва́ць шкля́русам **2.** блішчэ́ць, бліскаце́ць; *The meadow spangled with flowers.* Луг стракацеў кветкамі.

**Spaniard** [ˈspænjəd] *n.* іспа́нец; іспа́нка; **the Spaniards** іспа́нцы

**spaniel** [ˈspænjəl] *n.* спаніэ́ль (*парода сабак*)

**Spanish**[1] [ˈspænɪʃ] *n.* **1.** іспа́нская мова **2. the Spanish** іспа́нцы

**Spanish**[2] [ˈspænɪʃ] *adj.* іспа́нскі; **Spanish America** «Іспа́нская Аме́рыка», амерыка́нскія краі́ны з іспа́нскай мо́ваю ♦ **Spanish money** адны́ то́лькі сло́вы; **walk Spanish** рабі́ць што-н. пад прыму́сам

**spank**[1] [spæŋk] *n.* пляска́ч; **give a spank** даць плескача́

**spank**[2] [spæŋk] *v.* ля́пацъ дало́нню; пля́скаць, шлёпаць; **spank a child's bottom** даць дзіця́ці плескача́ па мя́ккім ме́сцы

**spanking**[1] [ˈspæŋkɪŋ] *n.* лупцо́ўка, наганя́й; **get a sound spanking** атрыма́ць до́бры наганя́й

**spanking**[2] [ˈspæŋkɪŋ] *adj. infml* ху́ткі, шпа́ркі; **do at a spanking pace** ісці́ ху́тка і вялі́кімі кро́камі

**spanner** [ˈspænə] *n. BrE, tech.* га́ечны ключ ♦ **throw a spanner in the works** *BrE* ≅ то́ркаць па́лкі ў ко́лы

**spar**[1] [spɑː] *n.* брус, перакла́дзіна

**spar²** [spɑː] *v.* **1.** біцца на кула́чках **2.** спрача́цца (*звыч. дружалюбна*)

**spare¹** [speə] *n.* запа́с, запасна́я ча́стка (*для машыны*); *Don't worry. I've got a spare.* Не хвалюйся. У мяне ёсць запасная шына.

**spare²** [speə] *adj.* **1.** запасны́, лі́шні; **spare parts** запасны́я ча́сткі; *We have no spare room for the table.* Няма дзе паставіць стол; *I have no spare money.* У мяне няма грошай у запас. **2.** во́льны, незаня́ты (*час*); *He paints in his spare time.* У вольны час ён малюе. **3.** *fml* худы́, то́нкі, хударля́вы; **a spare frame** хударля́вы целаскла́д **4.** мізэ́рны, уме́раны; *He is spare of speech.* Ён скупы на словы; *The room is spare of furniture.* У пакоі вельмі мала мэблі. **5.** стро́гі, ашча́дны; **a spare diet** стро́гая дые́та ♦ **go spare** *BrE, infml* разысці́ся, разлава́цца, шале́ць ад зло́сці

**spare³** [speə] *v.* **1.** мець лі́тасць, злі́тавацца, шкадава́ць; *Please spare me!* Пашкадуй мяне, калі ласка! **2.** берагчы́, зберага́ць, шанава́ць, экано́міць; **spare no pains** не шкадава́ць кло́патаў **3.** удзяля́ць (*час, увагу*); *Can you spare me a moment?* Ці можаш падараваць мне хвілінку? **4.** *infml* абыхо́дзіцца; *I can't spare him today.* Я не магу сёння абысціся без яго. **5.** мець залі́шне, надзвы́чай мно́га, зана́дта (*чаго-н.*); *I have no cash to spare today.* У мяне сёння няма лішніх грошай. ♦ **spare smb.'s blushes** канфу́зіць, саро́міць каго́-н.; **spare smb.'s feelings** берагчы́ чые́-н. пачу́цці, злі́тавацца над кім-н.; **(and) to spare:** *We have enough fruit and to spare.* У нас садавіны больш чым трэба; **spare the rod and spoil the child** пашкадава́ць дубца́ і разбэ́сціць дзіця́; быць залі́шне мя́ккім у выхава́нні дзяце́й

**spare rib** [ˌspeəˈrɪb] *n.* свіна́я рабры́нка (*у кулінарыі*)

**spare tyre** [ˌspeəˈtaɪə] *n. BrE* запасна́я шы́на

**spark¹** [spɑːk] *n.* **1.** і́скра, успы́шка **2.** про́бліск, і́скарка; **a spark of politeness** про́бліск ве́тлівасці; **not a spark** ані́ ка́ліва; **not a spark of interest** аніякага інтарэ́су

**spark²** [spɑːk] *v.* успы́хваць, іскры́цца

**spark off** [ˌspɑːkˈɒf] *phr.v.* выкліка́ць (*што-н.*), пачына́ць; быць прычы́наю; *The question sparked off a lively discussion.* Пытанне выклікала жывую дыскусію.

**sparkle¹** [ˈspɑːkl] *n.* **1.** і́скра, іскры́нка; **not a sparkle of wit** ні кро́плі дасці́пнасці **2.** бляск, зіхаце́нне; ажы́ўленасць; *The wine has lost its sparkle.* Віно перастала пускаць бурбалкі; *The performance lacked sparkle.* Спектаклю не хапала жывасці.

**sparkle²** [ˈspɑːkl] *v.* **(with) 1.** зіхаце́ць, іскры́цца, ззяць; *Her eyes sparkled with joy.* Яе вочы свяціліся радасцю. **2.** шыпе́ць, пе́ніцца, бу́лькаць (*пра віно*) **3.** быць ажы́ўленым; вызнача́цца; *She always sparkles at parties.* Яна заўжды вылучаецца на вечарынах.

**sparkler** [ˈspɑːklə] *n.* бенга́льскі аго́нь

**sparklet** [ˈspɑːklət] *n.* і́скарка, іскры́нка

**sparkling** [ˈspɑːklɪŋ] *adj.* **1.** іскры́сты, шыпу́чы (*пра віно*) **2.** зіхатлі́вы, бліску́чы; **a sparkling conversation** жыва́я размо́ва

**spark plug** [ˈspɑːkplʌg] *n. tech.* запа́льная све́чка

**sparring partner** [ˈspɑːrɪŋˌpɑːtnə] *n.* **1.** суразмо́ўца, з які́м прые́мна спрача́цца **2.** партнёр для трэніро́ўкі ў прафесі́йным бо́ксе

**sparrow** [ˈspærəʊ] *n.* вераб́ей ♦ **a fallen sparrow** ахвя́ра, няўда́чнік

**sparse** [spɑːs] *adj.* рэ́дкі; раскі́даны; **a sparse population** рэ́дкае насе́льніцтва; **get sparse** рабі́цца рэ́дкімі, радчэ́ць (*пра валасы*)

**sparsely** [ˈspɑːsli] *adv.* рэ́дка, нягу́ста; **a sparsely populated area** маланасе́лены раён

**spartan** [ˈspɑːtn] *adj.* спарта́нскі; стры́маны, суро́вы; **a spartan meal** спарта́нская е́жа; **lead a spartan life** жыць па-спарта́нску

**spasm** [ˈspæzəm] *n.* **1.** спа́зма, су́тарга; **go into spasm** зво́дзіць су́таргай **2.** пары́ў, вы́бух (*гора, энергіі і да т.п.*); **a spasm of coughing** пры́ступ ка́шлю

**spasmodic** [spæzˈmɒdɪk] *adj.* **1.** нерэгуля́рны, хааты́чны; **a spasmodic interest** непастая́нны інтарэ́с **2.** спазматы́чны, су́таргавы

**spastic** [ˈspæstɪk] *adj. med.* спазматы́чны, су́таргавы; **a spastic child** дзіця́, разбі́тае спазматы́чным пара́люшам

**spat¹** [spæt] *n. infml* невялі́кая сва́рка

**spat²** [spæt] *n.* ге́тра; **a pair of spats** ге́тры

**spat³** [spæt] *past, p.p.* → **spit²**

**spate** [speɪt] *n.* лі́вень, зале́ва; пато́к; **a spate of words** пато́к слоў; **a spate of work** шмат пра́цы ♦ **in (full) spate** у паво́дцы; *The river is in spate.* На рацэ моцная паводка.

**spatial** [ˈspeɪʃl] *adj. fml* **1.** прасто́равы; **the changing spatial distribution of the population** зме́нлівае тэрытарыя́льнае размеркава́нне насе́льніцтва; *We are temporal and spatial.* Мы існуем у часе і прасторы. **2.** касмі́чны; **spatial objects** касмі́чныя аб'е́кты

**spatter¹** [ˈspætə] *n.* пы́рскі, пы́рсканне; **a spatter of applause** сла́быя апладысме́нты; *There was a spatter of rain.* Пырснуў дожджык.

**spatter²** [ˈspætə] *v.* **(on/over) 1.** пы́рскаць, распы́рскваць; распы́рсквацца; *The rain was spattering down on the roof.* Дождж малаціў

кроплямі па даху. **2.** расплёскваць; расплёскваца; расплю́хваць; расплю́хваца; **spatter mud on one's clothes** заля́паць во́пратку гра́ззю; *The sky is spattered with stars.* Неба ўсеяна зоркамі.

**spatula** [ˈspætʃələ] *n.* **1.** лапа́тка***;*** **a plastic spatula** пла́стыкавая лапа́тка **2.** *BrE, med.* шпа́тэль

**spawn**[1] [spɔːn] *n.* **1.** ікра́ (*рыбы*) **2.** *biol.* грыбні́ца

**spawn**[2] [spɔːn] *v.* **1.** нераставáць, адкла́дваць ікру́ **2.** *derog.* пладзі́цца; кішэ́ць, быць перапо́ўненым; *The departments are spawning new committees and sub-committees.* Аддзелы ствараюць новыя камісіі і падкамісіі.

**speak** [spiːk] *v.* **(spoke, spoken) 1.** гавары́ць, размаўля́ць; **speak for smb.** гавары́ць ад чыйго́-н. імя́; **speak English** гавары́ць па-англі́йску **2.** каза́ць, выка́звацца; **speak the truth** гавары́ць пра́ўду; **speak one's mind** выка́звацца адкры́та, шчы́ра **3.** све́дчыць; **speaking for myself** што да мяне́ **4.** зга́дваць, упаміна́ць; **nothing to speak of** нічо́га асаблі́вага **5.** выступа́ць; **speak in public** выступа́ць публі́чна ♦ **actions speak louder than words** менш слоў, а больш спраў; **roughly speaking** гру́ба ка́жучы; **so to speak** так сказа́ць

**speak out** [ˌspiːkˈaʊt] *phr.v.* выка́звацца, гавары́ць; гавары́ць шчы́ра, адкры́та

**speak up** [ˌspiːkˈʌp] *phr.v.* **1.** гавары́ць гу́чна і выра́зна **2.** выка́звацца

**speakeasy** [ˈspiːkiːzi] *n.* карчма́, шыно́к, дзе прадава́ліся нелега́льна спіртны́я напо́і (*пры сухім законе ў ЗША*)

**speaker** [ˈspiːkə] *n.* **1.** прамо́ўца, дакла́дчык **2.** асо́ба, яка́я вало́дае мо́ваю; **be a speaker of French** гавары́ць па-францу́зску **3. the Speaker** спі́кер (*у парламенце*) **4.** гучнагавары́цель, дына́мік

**Speaker's Corner** [ˌspiːkəzˈkɔːnə] *n.* Куто́к прамо́ўцаў (*у Гайд-парку*)

**speaking** [ˈspiːkɪŋ] *adj.* **1.** выра́зны (*позірк, твар, вочы*) **2.** жывы́, падо́бны; **a speaking likeness** жывы́ партрэ́т **3. : English-speaking countries** англамо́ўныя краі́ны ♦ **be on speaking terms** падтры́мліваць знаёмства, размаўля́ць (*з кім-н.*)

**speaking trumpet** [ˈspiːkɪŋˌtrʌmpɪt] *n.* ру́пар, мегафо́н

**spear**[1] [spɪə] *n.* **1.** дзі́да, кап'ё; дро́цік, во́сці, гарпу́н; **catch a fish with a spear** злаві́ць ры́бу во́сцямі; **catch a whale with a spear** загарпу́ніць кіта́ **2.** *pl.* **spears** стрэ́лкі (*раслін*); **spears of the snowdrop plants** па́расткі, стрэ́лкі падснежнікаў

**spear**[2] [spɪə] *v.* **1.** праны́зваць, праціна́ць дзі́дай або́ кап'ём **2.** біць во́сцямі, гарпу́ніць; *He speared the chop with a fork.* Ён падчапіў катлету відэльцам.

**spearhead**[1] [ˈspɪəhed] *n.* **1.** вастрыё (*дзіды, кап'я*) **2.** *fml* ініцыя́тар, завада́тар, ініцыяты́ўная гру́па*; You will act as spearhead of the campaign, won't you?* Вы будзеце ініцыятарам кампаніі, праўда?

**spearhead**[2] [ˈspɪəhed] *v.* узнача́льваць, быць завада́тарам, ініцыя́тарам

**spearmint** [ˈspɪəmɪnt] *n. bot.* кучара́вая мя́та

**spec** [spek] *n.* **:** ♦ **on spec** *BrE, infml* наспе́х, наўздага́д*; I went to the concert on spec.* Я пайшоў на канцэрт не падумаўшы.

**special**[1] [ˈspeʃl] *n.* **1.** не́шта надзвыча́йнае; надзвыча́йны вы́пуск газе́ты; дадатко́вы цягні́к; спецыя́льны карэспандэ́нт; спецыя́льная перада́ча (*па радыё);* тэрміно́вае пісьмо́ **2.** *infml* асо́бая, рэ́зка зні́жаная цана́; *Coffee is on special this week.* Каву прадаюць са зніжкамі на гэтым тыдні.

**special**[2] [ˈspeʃl] *adj.* **1.** асаблі́вы, асо́бы; **a special reason** асо́бая прычы́на; **in a very special sense** у зусі́м і́ншым сэ́нсе; *I have nothing special to tell you.* Я не маю сказаць табе нічога асаблівага. **2.** спецыя́льны; **a special train** дадатко́вы цягні́к; **a special course of study** спецыя́льны прадме́т; **a special election** *AmE* давы́бары; **a special hospital** спецыялізава́ны шпіта́ль; **make a special study of English** спецыялізава́цца ў вывучэ́нні англі́йскай мо́вы **3.** асаблі́вы, адмысло́вы; **a special feature** індывідуа́льная ры́са; **a special friend** блі́зкі ся́бар

**Special Branch** [ˈspeʃlˌbrɑːntʃ] *n.* **the Special Branch** (*палітычная паліцыя ў Вялікабрытаніі*)

**special delivery** [ˌspeʃldɪˈlɪvəri] *n.* тэрміно́вая даста́ўка пашто́вых адпраўле́нняў

**special education** [ˌspeʃledʒuˈkeɪʃn] *n.* навуча́нне дзяце́й, які́я ма́юць фізі́чныя або́ разумо́выя прабле́мы

**special effects** [ˌspeʃlɪˈfekts] *n. pl.* **1.** камбінава́ныя зды́мкі (*у кіно*) **2.** спецыя́льны эфе́кт (*дажджу, туману і да т.п.*)

**special interests** [ˌspeʃlˈɪntrəsts] *n. pl.* **1.** капіталаўклада́нні **2.** карпара́цыі, манапо́ліі

**specialist** [ˈspeʃəlɪst] *n.* спецыялі́ст; **an eye specialist** ура́ч-акулі́ст; **a specialist in nervous diseases** неўрапато́лаг, спецыялі́ст па нерво́вых захво́рваннях

**speciality** [speʃiˈæləti] *n. BrE* **1.** фі́рменны тава́р; **a speciality of the house** фі́рменная стра́ва

**2.** галіна́ спецыя́льнасці; *Her speciality is Greek poetry.* Яна спецыялізуецца па грэчаскай паэзіі.

**specialize,** *BrE* **-ise** [ˈspeʃəlaɪz] *v.* **(in)** спецыялізава́цца (*па чым-н.*); *He specializes in oriental history.* Ён спецыялізуецца па ўсходняй гісторыі; *This shop specializes in chocolates.* У гэтым магазіне прадаюцца шакаладныя вырабы.

**specialized,** *BrE* **-ised** [ˈspeʃəlaɪzd] *adj.* спецыя́льны, спецыялізава́ны; **specialized tools** спецыя́льныя прыла́ды

**specially** [ˈspeʃəli] *adv.* **1.** спецыя́льна; *I went there specially to see them.* Я пайшла туды толькі дзеля таго, каб убачыць іх. **2.** *infml* асаблі́ва; **specially careful** асаблі́ва ўва́жлівы

**special offer** [ˌspeʃlˈɒfə] *n.* спецыя́льная прапано́ва чаго́-н. (*звычайна па зніжанай цане*)

**special pleading** [ˌspeʃlˈpliːdɪŋ] *n. law* асаблі́вае хада́йніцтва яко́га-н. бо́ку са спасы́лкаю на но́выя абста́віны

**special school** [ˌspeʃlˈskuːl] *n.* спецыя́льная шко́ла (*для дзяцей з фізічнымі або псіхічнымі недахопамі*)

**specialty** [ˈspeʃəlti] *n.* = **speciality**

**species** [ˈspiːʃiːz] *n.* (*pl.* **species**) від; разнаві́днасць; род; гату́нак; паро́да; **various animal species** ро́зныя паро́ды жывёл; **human species** чалаве́чы род, чалаве́цтва

**specific**[1] [spəˈsɪfɪk] *n.* **1.** *med.* спецыфі́чны сро́дак, ле́кі ад пэ́ўнай хваро́бы; *Recreation is a specific.* Актыўны адпачынак – найлепшы сродак для стомленага чалавека. **2.** *pl.* **specifics** дэта́лі, падрабя́знасці; *We are moving from the general to the specifics.* Мы ідзём ад агульнага да прыватнага.

**specific**[2] [spəˈsɪfɪk] *adj.* **1.** выра́зны, акрэ́слены, дакла́дны; *What are your specific aims?* Якія вашы дакладныя мэты? **2.** адмысло́вы, спецыфі́чны, асаблі́вы, асо́бы; **a specific use of a word** асо́бае ўжыва́нне сло́ва

**specifically** [spəˈsɪfɪkli] *adv.* асаблі́ва, менаві́та; *These houses are specifically designed for old people.* Гэтыя дамы спецыяльна спраектаваныя для старых людзей.

**specification** [ˌspesɪfɪˈkeɪʃn] *n. pl.* **specifications** дэта́лі; спецыфіка́цыя; **technical specifications** тэхні́чныя асаблі́васці, інстру́кцыі

**specifics** [spəˈsɪfɪks] *n.* спецы́фіка, асаблі́васць

**specify** [ˈspesɪfaɪ] *v.* дакла́дна вызнача́ць, удакладня́ць; **specify a date (for)** прызнача́ць да́ту (для); *The regulations specify that you may use a dictionary in the examination*. У правілах удакладняецца, што на экзаменах можна карыстацца слоўнікам.

**specimen** [ˈspesɪmɪn] *n.* **1.** экзэмпля́р; **a specimen copy** про́бны экзэмпля́р **2.** пры́клад, узо́р; **a specimen of handwriting** пры́клад по́чырку; **take a specimen of smb.'s blood** узя́ць у каго́-н. кроў на ана́ліз

**specious** [ˈspiːʃəs] *adj. fml* праўдападо́бны; **a specious argument** павярхо́ўны аргуме́нт

**speck** [spek] *n.* пля́мка, кра́пінка; крупі́нка, драбо́к; **a speck of dust** пылі́нка; **not a speck of evidence** ніякі́х до́казаў; **not a speck of truth** ні ка́ліва пра́ўды

**speckle** [ˈspekl] *n.* **1.** пля́мка, кра́пінка **2.** вясну́шка; му́шка; *She's got speckles only in spring.* У яе рабацінне толькі вясною.

**speckled** [ˈspekld] *adj.* у кра́пінку, рабы́; **a speckled dress** суке́нка ў кра́пінку; **a speckled hen** «ку́рачка-ра́ба»; **a speckled nose** рабы́ нос; **a speckled group** *infml* разнама́сная кампа́нія

**specs** [speks] *n. infml* (*скар. ад* **spectacles**) акуля́ры

**spectacle** [ˈspektəkl] *n.* відо́вішча; сцэ́на; **a moving spectacle** захапля́льнае відо́вішча; *The sunrise was a tremendous spectacle.* Усход сонца ўяўляў сабою цудоўную сцэну. ♦ **make a spectacle of oneself** прыця́гваць да сябе́ ўва́гу; стаць пасме́шышчам

**spectacles** [ˈspektəklz] *n. pl.* акуля́ры ♦ **look through rose-coloured spectacles** ба́чыць усё ў ружо́вым святле́; глядзе́ць на ўсё праз ружо́выя акуля́ры

**spectacular**[1] [spekˈtækjələ] *n.* **1.** я́ркі тэатра́льны спекта́кль, фее́рыя; тэатралізава́ны канцэ́рт з удзе́лам зо́рак **2.** эфе́ктнае відо́вішча; **a bridal spectacular** пы́шнае вясе́лле

**spectacular**[2] [spekˈtækjələ] *adj.* захапля́льны; ве́лічны; эфе́ктны; **a spectacular success** ашаламля́льны по́спех

**spectator** [spekˈteɪtə] *n.* **1.** наве́двальнік, глядач (*гульняў, стадыёна і да т.п.*) **2.** назіра́льнік відо́вішча; *I was a spectator of the whole affair.* Усё адбывалася на маіх вачах.

**spectator sport** [spekˈteɪtəˌspɔːt] *n.* відо́вішчны спорт

**specter** [ˈspektə] *AmE* = **spectre**

**spectra** [ˈspektrə] *n. pl.* → **spectrum**

**spectral** [ˈspektrəl] *adj.* **1.** *lit.* пры́відны; **a spectral creature** здань, пры́від, фанто́м **2.** *phys.* спектра́льны; **spectral analysis** спектра́льны ана́ліз

**spectre** [ˈspektə] *n.* **1.** пагро́за, знак, прадве́сце; **the spectre of war** пагро́за вайны́ **2.** здань, пры́від, фанто́м; **the spectre of Hamlet's father** здань ба́цькі Га́млета

**spectrum** [ˈspektrəm] *n.* (*pl.* **spectra**) **1.** *phys.* спектр; **the solar spectrum** со́нечны спектр **2.** *fml* дыяпазо́н; **the sound spectrum** дыяпазо́н гу́ку; **the spectrum of political beliefs** ро́зныя паліты́чныя по́гляды; **the whole spectrum of abilities** разнаста́йнасць здо́льнасцей

**speculate** [ˈspekjuleɪt] *v.* **1. (about/on)** развaжа́ць, меркава́ць, разду́мваць; **speculate about the future** абду́мваць бу́дучае; **speculate on the problem** разважа́ць над праблéмаю **2. (in)** спекулява́ць; ігра́ць на бі́ржы; **speculate in stocks and shares** спекулява́ць кашто́ўнымі папе́рамі

**speculation** [ˌspekjuˈleɪʃn] *n.* **1. (over/about/on)** разва́га, ро́здум, абду́мванне; **be engaged in speculation** разду́мваць, абду́мваць **2.** гіпо́тэза, меркава́нне; **pure speculation** усяго́ то́лькі меркава́нне; **do smth. on speculation** рабі́ць што-н. наўздага́д **3. (in)** спекуля́цыя, спекуля́ва́нне; **land speculations** спекуля́цыя зямлёю; **make some speculations** спекулява́ць

**speculative** [ˈspekjələtɪv] *adj.* **1.** абстра́ктны, тэарэты́чны, гіпатэты́чны; **speculative power** разумо́выя здо́льнасці **2.** спекуляты́ўны, рызыко́ўны; **speculative buying** спекуляты́ўная ку́пля; **speculative philosophy** спекуляты́ўная філасо́фія

**speculator** [ˈspekjuleɪtə] *n.* спекуля́нт; **a real estate speculator** спекуля́нт нерухо́масцю

**sped** [sped] *past, p.p.* → **speed[2]**

**speech** [spiːtʃ] *n.* **1.** мо́ва, маўлéнне; мо́ўная дзéйнасць; **a figure of speech** *ling.* фігу́ра мо́вы; **a part of speech** *ling.* часці́на мо́вы; **be slow of speech** гавары́ць паво́льна; **speech habits** маўлéнчыя на́выкі; **express thoughts by speech** выка́зваць ду́мкі ўслы́х; *He was startled beyond speech.* Ён анямеў ад здзіўлення. **2.** гаво́рка, вымаўлéнне; **colloquial speech** гутарко́вая мо́ва; **free speech** бесцырымо́нная гу́тарка; **London speech** ло́нданскі дыялéкт; *He is Irish by his speech.* Ён ірландзец, пра што сведчыць яго вымаўленне. **3. (on/about)** прамо́ва, выступлéнне, спіч; **an opening/a closing speech** усту́пная/заклю́чная прамо́ва; **freedom of speech** свабо́да сло́ва; **a speech of welcome** прывіта́льная прамо́ва; **make/deliver/give a speech** выступа́ць з прамо́ваю **4.** размо́ва; **give speech to one's feelings** знайсці́ сло́вы для выка́звання сваі́х пачу́ццяў ♦ **speech is silver, silence is golden** сло́ва – срэ́бра, маўча́нне – зо́лата

**speech day** [ˈspiːtʃˌdeɪ] *n.* а́ктавы дзень (*урачысты сход у канцы навучальнага года з прамовамі, уручэннем атэстатаў і да т.п. у некаторых брытанскіх школах*)

**speechless** [ˈspiːtʃləs] *adj.* маўклі́вы; анямéлы, знямéлы; *We were left speechless.* Мы анямелі; *I was speechless with anger.* Я не мог гаварыць ад злосці.

**speech therapist** [ˈspiːtʃˌθerəpɪst] *n.* лагапéд

**speed[1]** [spiːd] *n.* **1.** ху́ткасць; шпа́ркасць; тэмп; **climbing speed** ху́ткасць набо́ру вышыні́ (*пра самалёт*); **speed of utterance** тэмп маўлéння; **at average/great/top speed** з сярэ́дняй/высо́кай/ грані́чнай ху́ткасцю; **at full speed** по́ўным хо́дам; **with all speed** як найхутчэ́й; **with lightning speed** з ху́ткасцю мала́нкі, вокамгнéнна; **put on speed** дада́ць ху́ткасці; **at a speed of 50 miles** з ху́ткасцю 50 міль **2.** святлоадчува́льнасць плёнкі (*пра фота*) ♦ **more haste, less speed** ≅ пама́лу е́дучы, далéй заéдзеш

**speed[2]** [spiːd] *v.* **1. (sped)** ху́тка бéгчы, імча́цца; ляцéць; *The car sped along the street.* Машына праімчалася па вуліцы; *The news sped swiftly over the country.* Навіна хутка абляцела ўсю краіну. **2. (sped)** набіра́ць, павялі́чваць ху́ткасць; **speed one's step** паскара́ць крок; **speed the work** працава́ць хутчэ́й **3. (speeded)** перавыша́ць ху́ткасць; *He was fined for speeding.* Яго аштрафавалі за перавышэнне хуткасці. **4.** *fml* **(speeded)** спяша́цца; падганя́ць, прыспéшваць; *The drugs will speed his recovery.* Гэтыя лекі паскораць яго выздараўленне.
**speed up** [ˌspiːdˈʌp] *phr.v.* павялі́чваць ху́ткасць, паскара́ць; *The train soon speeded up.* Цягнік імкліва набраў хуткасць.

**speedboat** [ˈspiːdbəʊt] *n.* быстрахо́дны ка́тар

**speeding** [ˈspiːdɪŋ] *n.* язда́ з вялі́кай, недазво́ленай ху́ткасцю; **no speeding** перавыша́ць ху́ткасць не дазваля́ецца (*надпіс*)

**speed limit** [ˈspiːdˌlɪmɪt] *n.* дазво́леная ху́ткасць, грані́чная ху́ткасць (*язды*); *The speed limit is 40 miles per hour.* Дазволеная хуткасць – 40 міль у гадзіну.

**speedometer** [spiːˈdɒmɪtə] *n.* спідо́метр

**speed skating** [ˈspiːdˌskeɪtɪŋ] *n.* скарасны́ бег на канька́х

**speed trap** [ˈspiːdˌtræp] *n.* рада́р для кантраля́вання ху́ткасці даро́жнага ру́ху; ча́стка даро́гі, дзе ёсць «лаву́шкі» для шафёраў-ліхачо́ў

**speed-up** [ˈspiːdʌp] *n. infml* паскарэ́нне; павышэ́нне но́рмы (вы́працоўкі) без павышэ́ння зарпла́ты; **a speed-up system** патаго́нная сістэ́ма

**speedway** [ˈspiːdweɪ] *n.* **1.** *AmE* даро́га для ху́ткай язды́ **2.** *BrE* даро́жка для матаго́нак; го́начны трэк **3.** *BrE, sport* спідвéй

**speedy** [ˈspiːdi] *adj.* **1.** ху́ткі, жва́вы, шпа́ркі; **speedy hands** спры́тныя ру́кі; *I wish you a speedy recovery.* Жадаю табе хутка паправіцца. **2.** неадкла́дны, безадкла́дны; **a speedy reply** неадкла́дны адка́з

**spell**[1] [spel] *n.* **1.** праме́жак ча́су, перы́яд; **a spell of bad weather** хало́дная пара́; **a spell of bad luck** перы́яд няўда́ч; **for a spell** на некато́ры час; **at a spell** за́пар, адра́зу; без адпачы́нку, без перапы́нку; **by spells** з перапы́нкамі **2.** перы́яд, тэ́рмін; **a spell of service** тэ́рмін слу́жбы; **a six-hour spell of duty** шасцігадзі́ннае дзяжу́рства; **do a spell in prison** адсядзе́ць тэ́рмін у турме́ **3.** пры́ступ (*хваробы*); **a coughing spell** пры́ступ ка́шлю; **have a fainting spell** абамле́ць **4.** змéна; **give smb. a spell** змяня́ць, падмяня́ць каго́-н. (*на працы*)

**spell**[2] [spel] *n.* **1.** замо́ва, заклі́на́нне; **bind a person by a spell** падпарадко́ўваць сабе́ чалаве́ка замо́вамі **2.** ча́ры; **under a spell** зачарава́ны, ачарава́ны ♦ **cast a spell over smb.** зачаро́ўваць каго́-н.

**spell**[3] [spel] *v.* **(spelt** *or* **spelled) 1.** піса́ць або́ вымаўля́ць сло́вы па лі́тарах; **spell backward** чыта́ць або піса́ць у адваро́тным пара́дку (*пра літары слова*); *How do you spell your name?* Як пішацца тваё імя? **2.** зна́чыць, цягну́ць за сабо́ю; *This weather spells ruin for many farmers.* Гэтае надвор'е – катастрофа для многіх фермераў .

**spell out** [ˌspelˈaʊt] *phr.v.* **1.** расшыфро́ўваць, разбіра́ць па лі́тарах **2.** растлума́чваць дэталёва і грунто́ўна; *It is time to spell out what we want.* Пара сказаць прама, чаго мы хочам.

**spellbinder** [ˈspelbaɪndə] *n.* **1.** палымя́ны прамо́ўца **2.** захапля́льны твор

**spellbound** [ˈspelbaʊnd] *adj.* зачарава́ны; *He held his audience spellbound.* Яго слухалі затаіўшы дыханне.

**speller** [ˈspelə] *n.* **:** *He's a good speller.* Ён добра піша.

**spelling** [ˈspelɪŋ] *n.* пра́вапіс, арфагра́фія; **spelling rules** арфаграфі́чныя пра́вілы; **a spelling reform** рэфо́рма пра́вапісу*; What's the correct spelling of this word?* Як правільна пішацца гэтае слова?

**spelt** [spelt] *past, p.p.* → **spell**[3]

**spend** [spend] *v.* **(spent) 1. (on)** тра́ціць, растра́чваць, выдатко́ўваць; **spend much trouble/pains on smth.** тра́ціць шмат намага́нняў на што-н.; *She spent herself for her children.* Яна аддала ўсю сябе дзецям. **2.** право́дзіць, ба́віць (*час*); **spend one's time in reading** право́дзіць час за чыта́ннем; *Spend a week with us.* Заставайся з намі на які тыдзень. ♦ **spend a penny** *BrE, infml, dated* пайсці́ ў прыбіра́льню

**spender** [ˈspendə] *n.* марнатра́вец, мот, манта́ч, транжы́р; *She's a big spender.* Яна добрая мантачка.

**spendthrift** [ˈspendθrɪft] *adj.* марнатра́ўны

**spent** [spent] *past, p.p.* → **spend**

**sperm** [spɜːm] *n. physiol.* спе́рма

**sperm whale** [ˈspɜːmˌweɪl] *n. zool.* кашало́т

**spew** [spjuː] *v. BrE, infml* **1.** ваніта́ваць, вырыгваць **2.** выкі́дваць; вывярга́ць; вывярга́цца **3.** ла́яцца; **spew charges** накі́двацца з абвінава́чваннямі

**spew out** [ˌspjuːˈaʊt] *phr.v.* **: spew out smoke** вывярга́ць дым

**sphere** [sfɪə] *n.* **1.** сфе́ра; шар; гло́бус; не́ба, нябёсы **2.** по́ле дзе́йнасці, сфе́ра, ні́ва, ко́ла (*інтарэсаў*); **the sphere of his influence** сфе́ра яго́ ўплы́ву; **the mental sphere** сфе́ра разумо́вай дзе́йнасці **3.** сацыя́льны асяро́дак, ко́ла (*людзей*); **in high spheres** у вышэ́йшых ко́лах грама́дства

**spherical** [ˈsferɪkl] *adj.* шарападо́бны, сферы́чны; **a spherical object** шарападо́бны прадме́т

**spheroid** [ˈsfɪərɔɪd] *n. math., phys.* сферо́ід

**sphinx** [sfɪŋks] *n.* сфінкс

**spice**[1] [spaɪs] *n.* **1.** (во́страя) прыпра́ва, спе́цыя **2.** піка́нтнасць; **a spice of humour** і́скра гу́мару

**spice**[2] [spaɪs] *v.* **1.** прыпраўля́ць спе́цыямі; *She spiced the biscuit with cinnamon.* Яна дадала карыцы ў бісквіт. **2.** надава́ць піка́нтнасць, вастрыню́; *His stories are spiced with humour.* У яго апавяданнях ёсць гумар.

**spiced** [spaɪst] *adj.* во́стры, рэ́зкі; духмя́ны; **heavily spiced curries** во́стры со́ус ка́ры

**spick** [spɪk] *adj.* **:** ♦ **spick and span** аха́йны, чы́сты; *They always keep their kitchen spick and span.* У іх кухні ўсё аж блішчыць.

**spicy** [ˈspaɪsi] *adj.* **1.** во́стры, рэ́зкі; духмя́ны **2.** *infml* піка́нтны, салёны; **spicy details** піка́нтныя падрабя́знасці

**spider** [ˈspaɪdə] *n.* **1.** паву́к **2.** крывапі́вец, крывасмо́к **3.** *comput.* спа́йдар (*праграма аўтаматычнага збору інфармацыі*)

**spiderweb** [ˈspaɪdəweb] *n.* павуці́на, павуці́нне (*таксама перан.*)

**spidery** [ˈspaɪdəri] *adj.* **1.** то́нкі, падо́бны да павуці́ны; **spidery handwriting** то́нкі неразбо́рлівы по́чырк; **spidery lace** кару́нкі «павуці́нне» **2.** павукападо́бны, павуко́вы

**spiel** [ʃpiːl, spiːl] *n. infml, derog.* **1.** балбатня́, пустасло́ўе; **give a spiel** балбата́ць, мя́нціць

языко́м, загаво́рваць зу́бы **2.** рэкла́мны ро́лік, рэкла́мная перада́ча

**spigot** [ˈspɪgət] *n.* **1.** заты́чка, шпунт, ко́рак (*бочкі*) **2.** *tech.* уту́лка

**spike**[1] [spaɪk] *n.* **1.** вастрыё, зубе́ц, шып **2.** шып (*на абутку*), гак (*на падкове*) **3.** *pl.* **spikes** шыпо́ўкі; го́рныя бо́ты **4.** *bot.* ко́лас **5.** абца́с «шпі́лька» **6.** *bot.* лава́нда шыракалі́стая; **oil of spike** лава́ндавы але́й

**spike**[2] [spaɪk] *v.* прані́зваць, прако́лваць ♦ **spike smb.'s guns** *BrE* ≅ ста́віць па́лкі ў ко́лы; разбура́ць чые́-н. пла́ны

**spiky** [ˈspaɪki] *adj.* **1.** калю́чы, з шыпа́мі; **a spiky hairbrush** калю́чая шчо́тка для валасо́ў **2.** *BrE, infml* раздражня́льны, сварлі́вы, прыдзі́рлівы

**spill**[1] [spɪl] *n.* **1.** аско́лак, трэ́ска **2.** до́ўгая запа́лка; скру́так з папе́ры (*для прыкурвання*)

**spill**[2] [spɪl] *v.* **(spilt** *or* **spilled) 1.** разліва́ць; разліва́цца; рассыпа́ць; рассыпа́цца; **spill blood** праліва́ць кроў; *A crowd of people spilled into the street.* Натоўп людзей высыпаў на вуліцу. **2.** *infml* прагаво́рвацца ♦ **spill the beans** распуска́ць язы́к, прагаво́рвацца; **it's no use crying over spilt milk** ≅ што ўпа́ла, то́е прапа́ла

**spill over** [ˌspɪlˈəʊvə] *phr.v.* выхо́дзіць за ме́жы чаго́-н.; перавыша́ць; *These areas are spilling over with population.* У гэтых раёнах шматколькаснае насельніцтва.

**spillage** [ˈspɪlɪdʒ] *n. fml* уце́чка, згу́ба, стра́та

**spillover** [ˈspɪləʊvə] *n.* лі́шак (*чаго-н., каго-н.*)

**spilt** [spɪlt] *past, p.p.* → **spill**[2]

**spin**[1] [spɪn] *n.* **1.** вярчэ́нне; вірава́нне; **give a coin a spin** крутану́ць мане́ту; **a double spin** па́рнае вя́рчэнне (*пра фігурнае катанне*) **2.** што́пар (*пра самалёт*); **go/get into a spin** увайсці́ ў што́пар **3.** *infml* каро́ткая паездка (*на машыне, матацыкле і да т.п.*); *Let's go for a spin.* Давай праедземся. ♦ **in a (flat) spin** разгу́блены, у па́ніцы

**spin**[2] [spɪn] *v.* **(spun) 1.** круці́ць; круці́цца, вярце́ць; вярце́цца; **spin a top** пуска́ць ваўчо́к; *My head spins.* У мяне кружыцца галава; *The room span round.* Пакой паплыў перад вачыма. **2.** пра́сці, снава́ць, сука́ць; **spin a web** пле́сці павуці́нне ♦ **spin a yarn** раска́зваць ба́йкі

**spin along** [ˌspɪnəˈlɒŋ] *phr.v.* ху́тка ру́хацца, ху́тка е́хаць, не́сціся (*на веласіпедзе, машыне і да т.п.*)

**spin out** [ˌspɪnˈaʊt] *phr.v.* расця́гваць час; **spin out a story** до́ўга і ну́дна раска́зваць што-н.

**spinach** [ˈspɪnɪtʃ] *n. bot.* шпіна́т

**spinal** [ˈspaɪnl] *adj. anat.* спінны́, пазвано́чны, хрыбе́тны, спіна́льны

**spinal column** [ˌspaɪnlˈkɒləm] *n. anat.* пазвано́чнік, спінны́ хрыбе́т

**spinal cord** [ˌspaɪnlˈkɔːd] *n. anat.* спінны́ мозг

**spindle** [ˈspɪndl] *n.* **1.** верацяно́; шпу́лька **2.** *tech.* вось, вал, шпі́ндаль

**spindly** [ˈspɪndli] *adj. infml* до́ўгі і то́нкі; высо́кі і худы́

**spin-drier** [ˌspɪnˈdraɪə] *n. BrE* цэнтрабе́жная сушы́лка для бялі́зны

**spine** [spaɪn] *n.* **1.** *anat.* пазвано́чнік, спінны́ хрыбе́т **2.** *bot., zool.* калю́чка, іго́лка, шып **3.** го́рны хрыбе́т **4.** карашо́к кні́гі

**spineless** [ˈspaɪnləs] *adj.* **1.** бесхара́ктарны, мякцэ́лы **2.** беспазвано́чны, бесхрыбе́тны

**spinner** [ˈspɪnə] *n.* **1.** прадзі́льшчык; прадзі́льшчыца; папраду́ха **2.** *sport* кру́чаны мяч

**spinney** [ˈspɪni] *n. BrE* ку́па дрэў; лясо́к, гаёк

**spinning** [ˈspɪnɪŋ] *n.* **1.** ху́ткае і лёгкае кручэ́нне; **hoop spinning** кручэ́нне абруча́ (*у гімнастыцы*) **2.** спі́нінг (*прылада*) **3.** прадзе́нне

**spinning wheel** [ˈspɪnɪŋˌwiːl] *n.* калаўро́т

**spin-off** [ˈspɪnɒf] *n.* дадатко́вая выго́да; дадатко́вая крыні́ца даxо́ду; пабо́чны вы́нік; **an author's royalties and spin-offs** а́ўтарскі ганара́р і дадатко́вы даxо́д (*ад экранізацыі яго твораў, інсцэніроўкі і да т.п.*)

**spinster** [ˈspɪnstə] *n.* **1.** *dated* незаму́жняя жанчы́на **2.** *derog.* стара́я дзе́ўка, векаву́ха

**spiny** [ˈspaɪni] *adj.* калю́чы, ко́лкі; пакры́ты іго́лкамі або́ калю́чкамі; **a spiny cactus** калю́чы ка́ктус; **a spiny problem** ця́жкае пыта́нне

**spiral**[1] [ˈspaɪərəl] *n.* **1.** спіра́ль; прадме́т спіра́льнай фо́рмы **2.** паступо́вае падзе́нне або́ павышэ́нне (*цэн, зарплаты і да т.п.*); **an inflationary spiral** інфляцы́йная спіра́ль; **a wage-price spiral** рост заро́бку і цэн

**spiral**[2] [ˈspaɪərəl] *adj.* спіра́льны, віты́; **a spiral staircase** віты́я ўсхо́ды; **a spiral fracture** *med.* спіра́льны перало́м

**spiral**[3] [ˈspaɪərəl] *v.* **1.** закру́чваць у спіра́ль; закру́чвацца ў спіра́ль; *The smoke spiralled upwards.* Дым уздымаўся ўверх спіраллю. **2.** расці́, паступо́ва павыша́цца або́ зніжа́цца (*пра цэны, зарплату*); *The war spiralled up prices to new heights.* Вайна прывяла да новага росту цэн.

**spirant** [ˈspaɪərənt] *n. ling.* фрыкаты́ўны зы́чны, спіра́нт

**spire** [ˈspaɪə] *n.* **1.** шпіль, спіча́к **2.** стрэ́лка (*расліны*), па́растак; былі́нка **3.** вастрыё, спіча́стая верхаві́на (*чаго-н.*); язы́к по́лымя

**spirit** [ˈspɪrɪt] *n.* **1.** дух, душá; **spirit and matter** дух і матэ́рыя; **the world of spirit** духо́ўнае жыццё; **strong in spirit** мо́цны ду́хам **2.** *eccl.* **the Spirit** Бог; **the Holy Spirit** Святы́ Дух **3.** дух, здань, пры́від; **an evil spirit** чорт, д'я́бал; **raise spirits** выклікáць ду́хаў; **believe in spirits** ве́рыць у пры́віды **4.** нату́ра, асо́ба, індывідуа́льнасць; *He is a generous spirit.* У яго шырокая душа; *She is an independent spirit.* Яна незалежная асоба. **5.** хара́ктар, эне́ргія, мара́льная сіла; **a man of spirit** мо́цны ду́хам чалаве́к; **break smb.'s spirit** злама́ць чый-н. дух; **put spirit into smb.** натхня́ць каго́-н.; **go at smth. with spirit** го́рача бра́цца за што-н. **6.** настро́й, душэ́ўны стан; стан душы́; **high/low spirits** до́бры/дрэ́нны настро́й; **animal spirits** жыццяра́даснасць, бадзёрасць; **the holiday spirit** свято́чны настро́й; **be out of spirits** быць у ке́пскім настро́і; *Keep up your spirits!* Трымайся! **7.** агу́льная тэндэ́нцыя, дух (*часу*); **the spirit of the age** дух эпо́хі; **the college spirit** аддáнасць трады́цыям кале́джа **8.** мэ́та, наме́р, за́дняя ду́мка; **do smth. in a spirit of mischief** рабі́ць не́шта са злым наме́рам; **take smth. in the right spirit** разуме́ць што-н. пра́вільна **9.** спірт, спіртны́я напо́і; **methylated spirit(s)** дэнатура́т; **spirit(s) of ammonia/hartshorn** нашаты́рны спірт; **spirit(s) of turpentine** шкіпіна́р; тарпанты́на ♦ **in spirit** у ду́мках; **the spirit is willing (but the flesh is weak)** дух жада́е, але́ плоць слаба́я; ≅ хо́чацца, ды ко́лецца

**spirit away** [ˌspɪrɪtəˈweɪ] *phr.v.* та́йна скра́сці, вы́красці; *He was spirited away by a policeman before we had a chance to speak to him.* Яго забраў паліцэйскі, перш чым мы змаглі пагаварыць з ім.

**spirited** [ˈspɪrɪtɪd] *adj.* жывы́, ціка́вы; **a spirited argument** гара́чая спрэ́чка

**spiritless** [ˈspɪrɪtləs] *adj. fml* вя́лы, мля́вы; **a spiritless face** невыра́зны твар; **a spiritless life** ну́днае жыццё; **a spiritless man** нецікáвы чалаве́к

**spiritual**[1] [ˈspɪrɪtʃuəl] *n.* рэлігі́йная пе́сня не́граў, духо́ўны гімн; негрыця́нскі спіры́чуал

**spiritual**[2] [ˈspɪrɪtʃuəl] *adj.* **1.** духо́ўны, інтэлектуа́льны; **our spiritual home** на́ша духо́ўная радзі́ма **2.** то́нкі, адухо́ўлены, узвы́шаны; **a spiritual face** адухо́ўлены твар **3.** рэлігі́йны, царко́ўны, набо́жны; **a spiritual court** царко́ўны суд

**spiritualism** [ˈspɪrɪtʃuəlɪzəm] *n.* **1.** *philos.* спірытуалі́зм **2.** спірыты́зм

**spiritualist** [ˈspɪrɪtʃuəlɪst] *n.* **1.** *philos.* спірытуалі́ст **2.** спіры́т

**spirituality** [ˌspɪrɪtʃuˈæləti] *n.* духо́ўнасць, духо́ўны пача́так

**spirituous** [ˈspɪrɪtʃuəs] *adj.* спіртны́, алкаго́льны, спіртавы́; дыстыля́ваны

**spit**[1] [spɪt] *n.* **1.** слі́на **2.** пляво́к **3.** дро́бны дождж або́ снег; імжá ♦ **be the dead spit of smb.** быць ве́льмі падо́бным да каго́-н., быць ко́піяй каго́-н.; *He's the very spit* (*and image*) *of his father.* Ён выліты бацька.

**spit**[2] [spɪt] *v.* **(spat) 1.** пляваць; пляваацца; пы́рскаць слі́наю, рабі́ць пы́рскі; **spit blood** ха́ркаць крывёю; **spit in smb.'s face** плю́нуць каму́-н. у твар **2.** ста́віцца абыя́кава (*да чаго-н./каго-н.*); **spit at/on smth.** плява́ць на што-н.; *I spit at his order.* Мне напляваць на яго загад. **3.** фы́ркаць, шыпе́ць (*пра жывёл*) **4.** *infml* ка́паць, пы́рскаць, се́яць (*пра дождж*), імжэ́ць; *It was spitting a bit, it was not raining heavily.* Трохі імжэла, дажджу вялікага не было. **5.** трашча́ць, шыпе́ць, сы́паць і́скрамі (*пра дровы*); *The grease was spitting on the fire.* Тлушч шкварчэў на агні. ♦ **within spitting distance** *infml* як плю́нуць

**spit out** [ˌspɪtˈaʊt] *phr.v. infml* выка́зваць, выпа́льваць (*словы*); **spit out a reproach** кі́нуць папро́к; **spit out an oath** чартыхну́цца, вы́лаяцца; *Come on! Spit out!* Давай, гавары!

**spit**[3] [spɪt] *n.* **1.** ражо́н, во́жаг **2.** каса́ (*ракі*), лука́, до́ўгая во́дмель, мель

**spite**[1] [spaɪt] *n.* зло́сць, зласлі́васць, злара́днасць; varо́жасць, непрыя́знасць; **do smth. out of/from spite** рабі́ць (што-н.) са зло́сці ♦ **in spite of** не зважа́ючы на, нягле́дзячы на

**spite**[2] [spaɪt] *v.* рабі́ць што-н. на злосць; назаля́ць, дапяка́ць (*каго́-н.*) ♦ **cut off one's nose to spite one's face** зрабі́ць само́му сабе́ на злосць

**spiteful** [ˈspaɪtfəl] *adj.* зло́сны; нядобразычлі́вы; зласлі́вы, злапа́мятны; **be spiteful against smb.** зло́снічаць су́праць каго́-н.

**spittle** [ˈspɪtl] *n. dated* пляво́к; слі́на; ха́рканне

**spittoon** [spɪˈtuːn] *n.* плява́льніца

**spiv** [spɪv] *n. BrE, slang* спекуля́нт, фарцо́ўшчык

**splash**[1] [splæʃ] *n.* **1.** пляск, плёскат; усплёск; **fall into the water with a splash** бу́хнуцца ў ваду́ **2.** пырска; пы́рсканне; **a splash of water** пы́ркі вады́ **3.** пля́ма; **a splash of paint** пля́ма фа́рбы **4.** *infml* эфе́кт, сенса́цыя ♦ **make/cause a splash** нарабі́ць шу́му, зрабі́ць сенса́цыю

**splash**[2] [splæʃ] *v.* **1.** пы́рскаць; пы́рскацца; распы́рскваць; распы́рсквацца; расплёскваць; расплёсквацца; **splash water on/over the floor** расплёскваць ваду́ па падло́зе **2.** плёскаць;

плёскацца; плю́хацца; бу́хнуцца (*у ваду*) **3.** усыпа́ць, усе́йваць; **fields splashed with poppies** усе́яныя ма́камі палі́ **4.** *infml* тра́ціць, транжы́рыць; **splash money about** пуска́ць гро́шы на ве́цер

**splash down** [ˌsplæʃˈdaʊn] *phr.v.* прываднíцца (*пра самалёт*)

**splash out** [ˌsplæʃˈaʊt] *phr.v. infml* гуля́ць, п'я́нстваваць

**splatter** [ˈsplætə] *v.* плёскаць; плёскацца; пы́рскаць; пы́рскацца; *The rain was splattering on the roof.* Дождж выбіваў пырскі па даху.

**spleen** [spliːn] *n.* **1.** *anat.* селязёнка, каса́ **2.** *lit.* раздражня́льнасць, ке́пскі настро́й; **a fit of spleen** пры́ступ зло́сці; **vent one's spleen on smb.** сарва́ць злосць на кім-н.

**splendid** [ˈsplendɪd] *adj.* **1.** пы́шны, бага́ты, раско́шны; **a splendid palace** раско́шны пала́ц; **a splendid gift** шчо́дры падару́нак; **a splendid sight** ве́лічнае відо́вішча **2.** *dated* ве́льмі до́бры, выда́тны, цудо́ўны; надзвыча́йны; **a splendid talent** бліску́чы та́лент; **a splendid idea** цудо́ўная ідэ́я; **have a splendid time** цудо́ўна право́дзіць час

**splendor** [ˈsplendə] *AmE* = **splendour**

**splendour** [ˈsplendə] *n.* **1.** бляск, зіхаце́нне; **the splendour of jewels** зіхаце́нне кашто́ўнасцей **2.** *pl.* **splendours** пы́шнасць, шык, раско́ша; хараство́; **scenic splendours** прыгажо́сць краявíду; **live in great splendours** жыць у раско́шы

**splice**[1] [splaɪs] *n.* ме́сца склéйкі (ква́лкаў) кінасту́жкі або́ магнíтнай сту́жкі

**splice**[2] [splaɪs] *n.* склéйваць (*стужку, дрэва і да т.п.*) ♦ **get spliced** *BrE, infml, dated* жанíцца

**splint** [splɪnt] *n. med.* лубо́к, шы́на; **apply a splint** накла́дваць шы́ну

**splinter**[1] [ˈsplɪntə] *n.* **1.** аско́лак; стрэ́мка, трэ́ска; **break into splinters** разбíць; разбíцца на дру́зачкі **2.** лучы́на

**splinter**[2] [ˈsplɪntə] *v.* раско́лваць; раско́лвацца; расшчапля́ць; расшчапля́цца; рассяка́ць

**splinter off** [ˌsplɪntərˈɒf] *phr.v.* раско́лвацца; адлуча́цца; разлуча́цца

**split**[1] [splɪt] *n.* **1.** раско́лванне, расшчапле́нне **2.** трэ́шчына, шчы́ліна; раско́ліна; **a split in the door** шчы́ліна ў дзвяра́х **3.** раско́л, разры́ў, падзе́л; **a split in the party** раско́л у па́ртыі **4.** спліт (*салодкая страва з разрэзаных напалову фруктаў з марожаным зверху*) **5.** *sport* шпага́т; **do the split** рабíць шпага́т

**split**[2] [splɪt] *v.* **(split) 1.** раско́лваць; раско́лвацца; трэ́скаць; трэ́скацца; **split open** узлама́ць (*сейф, шафу і да т.п.*); **split a stick** раскало́ць кій; *The river splits the town into two.* Рака дзеліць горад напалову; *I laughed till I thought I should split.* Я ледзь не лопнуў са смеху. **2.** дзялíць на ча́сткі; дзялíцца; размярко́ўваць; **split a cake** разраза́ць біскві́т уздо́ўж; **split the cost** дзялíць расхо́ды **3.** дзялíцца на ча́сткі, распада́цца, раско́лвацца; *The court split four and four.* Галасы ў судзе раздзяліліся: чатыры на чатыры; *The language split into several dialects.* Мова распалася на некалькі дыялектаў. ♦ **split the difference** браць сярэ́днюю велічыню́; сыхо́дзіцца ў цане́; ісцí на кампрамíс; **split hairs** *derog.* спрача́цца пра дро́бязі; быць прыдзíрлівым, педанты́чным; **split one's sides with laughter** ло́пнуць са сме́ху

**split away** [ˌsplɪtəˈweɪ] *phr.v.* = **split off**

**split off** [ˌsplɪtˈɒf] *phr.v.* адкало́цца, адшчапíцца; *The road splits off from the highway.* Дарога адгаліноўваецца ад шашы.

**split up** [ˌsplɪtˈʌp] *phr.v.* разысцíся, разлучы́цца; *They split up after a year of marriage.* Яны разышліся праз год пасля шлюбу.

**split bar** [ˌsplɪtˈbɑː] *n. comput.* лíнія разбíўкі (*акна*)

**split infinitive** [ˌsplɪtɪnˈfɪnɪtɪv] *n. ling.* інфінíты́ў з аддзе́ленай часцíцаю «to»

**split-level** [ˌsplɪtˈlevl] *adj.* (пабудава́ны) на ро́зных узро́ўнях (*пра дом*); **a split-level house** дом з пако́ямі на ро́зных узро́ўнях

**split peas** [ˌsplɪtˈpiːz] *n. pl.* лу́шчаны гаро́х

**split personality** [ˌsplɪtpɜːsəˈnæləti] *n. med.* раздвае́нне асо́бы (*пры шызафрэніі*)

**split second** [ˌsplɪtˈsekənd] *n.* до́ля секу́нды; імгне́нне во́ка

**split ticket** [ˌsplɪtˈtɪkɪt] *n.* бюлетэ́нь, у які́м вы́баршчык падае́ свой го́лас за прадстаўнíко́ў ро́зных па́ртый (*ЗША*)

**splitting** [ˈsplɪtɪŋ] *adj.* во́стры, цяжкí, мо́цны, балю́чы; *I have a splitting headache.* У мяне аж трашчыць галава ад болю.

**splodge** [splɒdʒ] *v.* **1.** пэ́цкаць; пэ́цкацца; *This material easily splodges.* Гэтая тканіна вельмі маркая. **2.** заля́пваць; заля́пвацца

**splotch** [splɒtʃ] *v.* = **splodge**

**splurge**[1] [splɜːdʒ] *n. infml* выстаўле́нне напака́з; паказу́ха; выхва́льства, хвальба́; **have a splurge** развярну́цца на ўсю моц; выстаўля́цца, выхваля́цца

**splurge**[2] [splɜːdʒ] *v. infml* тра́ціцца; гуля́ць; **splurge on a new dress** патра́ціць гро́шы на но́вую суке́нку

**splutter**[1] [ˈsplʌtə] *n.* **1.** шыпе́нне, трэск; патрэ́скванне; пляск; *The candle gave a few final splutters and went out.* Свечка пару разоў

трэснула і патухла. **2.** няскла́дная гаво́рка, лапата́нне

**splutter²** [ˈsplʌtə] *v.* **1.** гаварыць ху́тка і невыра́зна (*ад хвалявання*), лапата́ць; **splutter out a few words of apology** пралапата́ць не́калькі слоў прабачэ́ння **2.** шыпе́ць, трашча́ць **3.** пы́рскаць, рабі́ць кля́ксы

**spoil** [spɔɪl] *v.* **(spoilt** *or* **spoiled) 1.** псава́ць; псава́цца; шко́дзіць; **spoil a joke** сапсава́ць жарт; *He spoiled my joy.* Ён не даў мне парадавацца; *The holidays were spoilt by bad weather.* Адпачынак прапаў з-за кепскага надвор'я. **2.** пе́сціць, ба́лаваць, бэ́сціць; **a spoilt child** разбэ́шчанае дзіця́ **3.** гніць, псава́цца (*пра прадукты*) ♦ **be spoiling for smth.** ірва́цца зрабі́ць што-н.; *He was spoiling for the fight.* Ён ірваўся ў бойку; **too many cooks spoil the broth** ≅ дзе ку́хараў шэсць, там няма́ чаго́ есць

**spoilage** [ˈspɔɪlɪdʒ] *n.* сапсава́ны тава́р, брак

**spoiler** [ˈspɔɪlə] *n.* перашко́да; трэ́ці лі́шні

**spoils** [spɔɪlz] *n. pl.* **1. the spoils** ва́енная здабы́ча, трафе́і; нарабава́нае дабро́; **give a town up to spoils** адда́ць го́рад на рабава́нне **2.** дзяржа́ўныя паса́ды, які́я раздаюцца прыхі́льнікам па́ртыі, што вы́йграла вы́бары

**spoilsport** [ˈspɔɪlspɔːt] *n. infml* той, хто псуе́ до́бры настро́й і́ншым; *Don't be a spoilsport.* Не псуй людзям настрой.

**spoilt** [spɔɪlt] *past, p.p.* → **spoil**

**spoke¹** [spəʊk] *n.* **1.** спі́ца (*кола*) **2.** прысту́пка, папярэ́чка, перакла́дзіна (*драбіны*) ♦ **put a spoke in smb.'s wheel** *BrE* устаўля́ць па́лкі ў ко́лы; перашкаджа́ць каму́-н. рабі́ць што-н.; даро́гу заступа́ць

**spoke²** [spəʊk] *past* → **speak**

**spoken¹** [ˈspəʊkn] *adj.* размо́ўны, ву́сны; **spoken language** гутарко́вая мо́ва; **the spoken protest** адкры́ты пратэ́ст

**spoken²** [ˈspəʊkn] *p.p.* → **speak**

**spokesman** [ˈspəʊksmən] *n.* (*pl.* **-men**) дэлега́т, прадстаўні́к; прамо́ўца (*ад групы людзей*)

**spokeswoman** [ˈspəʊksˌwʊmən] *n.* (*pl.* **-women**) прадстаўні́ца (*групы*), яка́я выступа́е ад чыйго́-н. імя́; жанчы́на-прамо́ўца

**sponge¹** [spʌndʒ] *n.* **1.** гу́бка; **a rubber sponge** гу́мавая гу́бка **2.** гу́бчатае, гу́бкавае рэ́чыва; пенапла́ст **3.** ба́гна, твань **4.** *med.* тампо́н (*з марлі і ваты*); **sponge tissue** *physiol.* гу́бчатая тка́нка **5.** *BrE* біскві́т **6.** абціра́нне гу́бкаю; **have a sponge down** абціра́цца гу́бкаю ♦ **throw up the sponge** *infml* прызна́ць сябе́ перамо́жаным

**sponge²** [spʌndʒ] *v.* **1.** выціра́ць, мыць (*губкаю*); **sponge a wound** прачышча́ць ра́ну **2.** (**on**) *infml* быць нахле́бнікам, «даі́ць» (*каго-н.*); **sponge of smb. everything** вы́цягнуць усё з каго́-н.; **sponge a dinner** папалу́днаваць на дармаў́шчы́ну

**sponge off** [ˌspʌndʒˈɒf] *phr.v.* сціра́ць гу́бкаю

**sponge out** [ˌspʌndʒˈaʊt] *phr.v.* закрэ́сліваць; выќідваць з па́мяці; забыва́ць; **sponge out a debt** дарава́ць доўг

**sponge mushroom** [ˈspʌndʒˌmʌʃruːm] *n. bot.* смаржо́к (*грыб*)

**sponge pudding** [ˌspʌndʒˈpʊdɪŋ] *n. BrE* пу́дынг (*як бісквіт*)

**sponger** [ˈspʌndʒə] *n. infml* нахле́бнік; нахле́бніца; дармае́д

**spongy** [ˈspʌndʒi] *adj.* губкава́ты, по́рысты, сітава́ты, наздрава́ты; **spongy dough** пы́шнае це́ста; **spongy ice** ры́хлы лёд; **spongy paper** по́рыстая папе́ра

**sponsor¹** [ˈspɒnsə] *n.* **1.** фунда́тар, спо́нсар **2.** паручы́цель, апяку́н; **stand/be sponsor for smb.** браць каго́-н. на пару́кі **3.** ініцыя́тар, арганіза́тар **4.** хро́сны; хро́сная; **a fellow sponsor** кум; кума́; **stand sponsor to a child** хрысці́ць дзіця́

**sponsor²** [ˈspɒnsə] *v.* **1.** руча́цца, дава́ць пару́ку **2.** фінансава́ць, субсідзі́раваць яку́ю-н. арганіза́цыю або́ мерапрые́мства **3.** прапано́ўваць, уно́сіць (*праект рэалізацыі*)

**sponsorship** [ˈspɒnsəʃɪp] *n.* **1.** пару́ка, гара́нтыя; апяку́нства **2.** фінансава́нне **3.** ініцыяты́ва, зачы́н

**spontaneity** [ˌspɒntəˈneɪəti] *n.* спанта́ннасць; стыхі́йнасць, самаадво́льнасць

**spontaneous** [spɒnˈteɪniəs] *adj.* **1.** спанта́нны, адво́льны; непасрэ́дны; стыхі́йны **2.** дабрачы́нны; *He made a spontaneous offer of his services.* Ён сам прапанаваў свае паслугі.

**spontaneous combustion** [spɒnˌteɪniəskəmˈbʌstʃən] *n.* самаўзгара́нне, самаўзгара́льнасць

**spoof** [spuːf] *n. infml* **1.** падма́н, містыфіка́цыя **2. (on)** паро́дыя

**spook¹** [spuːk] *n. infml, joc.* пры́від, здань, мро́я; *Spooks haunt that old castle.* Па тым старым замку блукаюць здані.

**spook²** [spuːk] *v. infml* пужа́ць, кіда́ць у дры́жыкі

**spooky** [ˈspuːki] *adj. infml* стра́шны; баязлівы́; *That was a spooky film.* Ад таго фільма мароз па скуры пайшоў.

**spool** [spuːl] *n.* шпу́ля, шпу́лька; бабі́на; **a spool of thread** шпу́лька ні́так

**spoon¹** [spuːn] *n.* лы́жка ♦ **be born with a silver spoon in one's mouth** ≅ нарадзі́цца ў кашу́лі (саро́чцы), нарадзі́цца шчаслі́вым

**spoon²** [spuːn] *v.* чэ́рпаць лы́жкаю, е́сці лы́жкаю

**spoon up** [ˌspuːnˈʌp] *phr.v.* **1.** зачарпнýць лы́жкаю; *He spooned up his soup hungrily.* Ён прагна сёрбаў суп. **2.** слáба ўдáрыць (*пра крыкет*)

**spoonerism** [ˈspuːnərɪzəm] *n.* міжвóльная перастанóўка гýкаў у слóвах (*напрыклад,* queer dean *замест* dear queen)

**spoonfed** [ˈspuːnfed] *past, p.p.* → **spoonfeed**

**spoonfeed** [ˈspuːnfiːd] *v.* **(spoonfed) 1.** кармíць з лы́жкі **2.** *derog.* разжóўваць; **spoonfeed material** падрабя́зна тлумáчыць матэрыя́л

**spoonful** [ˈspuːnfʊl] *n.* пóўная лы́жка; **two spoonfuls a day** дзве лы́жкі ў дзень

**sporadic** [spəˈrædɪk] *adj. fml* спарады́чны; **sporadic showers** часóвыя навальнíцы; **a sporadic disease** адзíнкавы вы́падак захвóрвання

**spore** [spɔː] *n. biol.* спóра

**sport**[1] [spɔːt] *n.* **1.** спорт; *She plays a lot of sport.* Яна шмат займаецца спортам; *He's good at sport.* Ён добры спартсмен. **2.** *pl.* **sports** спарты́ўныя гýльні; **outdoor/indoor sports** гýльні на адкры́тым павéтры/у закры́тым памяшкáнні; **inter-university sports** спабóрніцтвы памíж універсітэ́тамі; **do sports** займáцца спóртам; **go in for sports** займáцца спóртам (*звыч. прафесійна*) **3.** забáва, жарт; **do smth. for sport** зрабíць што-н. для жáрту; **for sport's sake** для жáрту; **what sport!** вось пацéха! **make sport of smb.** жартавáць з кагó-н.; **say smth. in sport** сказáць што-н. дзéля жáрту ♦ **good sport**! малайчы́на! *He's a good sport!* Ён хлопец хоць куды!; *Come on, sport!* Ну давай, дружа!

**sport**[2] [spɔːt] *v.* **1.** выстаўля́ць напакáз, францíць, фарсíць (*чым-н.*); **sport one's learning** казырáць сваёй эруды́цыяй **2.** *lit.* весялíцца, гуля́ць; *The children were sporting upon the shore.* Дзеці гулялі на беразе.

**sporting** [ˈspɔːtɪŋ] *adj.* **1.** спарты́ўны; **a sporting occasion** спарты́ўная падзéя; **sporting equipment** спарты́ўныя прылáды **2.** справядлíвы; *He made me a sporting offer.* Ён даў мне роўны шанц; *It's very sporting of you to give me an advantage.* Як велікадушна з вашага боку, што вы даяце мне шанц. **3.** звя́заны з азáртнымі гýльнямі, рызыкóўны ♦ **a sporting chance (of success)** шанц абó надзéя на пóспех

**sportive** [ˈspɔːtɪv] *adj.* гуллíвы, гарэ́злівы; **a sportive show of affection** жартаўлíвае прызнáнне ў кахáнні

**sports car** [ˈspɔːtsˌkɑː] *n.* спарты́ўны аўтамабіль

**sportscast** [ˈspɔːtskɑːst] *n. AmE* спарты́ўная перадáча, рэпартáж пра спарты́ўныя спабóрніцтвы

**sports centre** [ˈspɔːtsˌsentə] *n. BrE* спарты́ўны цэнтр

**sports day** [ˈspɔːtsˌdeɪ] *n. BrE* дзень спарты́ўных спабóрніцтваў (*у школе*)

**sports editor** [ˈspɔːtsˌedɪtə] *n.* загáдчык аддзéла спóрту (*у прэсе*)

**sports ground** [ˈspɔːtsˌgraʊnd] *n.* спарты́ўная пляцóўка

**sportsman** [ˈspɔːtsmən] *n.* (*pl.* **-men**) спартсмéн; спартóвец; **a first-grade sportsman** спартсмéн-першаразрáднік

**sportsmanlike** [ˈspɔːtsmənlaɪk] *adj.* справядлíвы, сумлéнны; высакарóдны; мýжны

**sportsmanship** [ˈspɔːtsmənʃɪp] *n.* **1.** спарты́ўнае майстэ́рства, спрáўнасць да спóрту **2.** прыстóйнасць, мýжнасць, стóйкасць (*у спорце*)

**sportswoman** [ˈspɔːtsˌwʊmən] *n.* (*pl.* **-women**) спартсмéнка

**sports writer** [ˈspɔːtsˌraɪtə] *n.* спарты́ўны каментáтар; журналíст па пытáннях спóрту

**sporty** [ˈspɔːti] *adj. infml* **1.** спарты́ўны **2.** ліхí, удáлы, заліхвáцкі **3.** паказны́, кíдкі; **sporty clothes** франтавáтае адзéнне

**spot**[1] [spɒt] *n.* **1.** пля́ма, крáпінка; **get out spots** ачышчáць ад плямаў; **a spot on smb.'s reputation** цень на чыёй-н. рэпутáцыі **2.** мéсца; мясцóвасць, раён; **spot coverage of the news** паведамлéнні з мéсца падзéй; **hot spots of the world** гарáчыя крóпкі планéты; **favoroute vacation spots** любíмыя мéсцы для адпачы́нку; **a weak spot** слáбае мéсца, слабінá **3.** *BrE, infml* крыхý, трóхі, невялíкая кóлькасць; **a spot of rain** крóпля дажджý; **a spot of leave** карóткі адпачы́нак **4.** *pl.* **spots** *med.* сып, вы́сыпка (*на целе*) **5.** *AmE, infml* рэстарáн, забягáлаўка; **a night spot** начны́ клуб **6.** *infml* ця́жкае станóвішча; *She was in a* (*tight*) *spot.* Яна апынулася ў цяжкім становішчы. ♦ **in spot** не заўжды́, спарады́чна; **hit the spot** задавóліць жадáнне, прыйсцíся даспадóбы; *You hit the spot.* Вы патрапілі якраз у самую кропку; **on the spot** на мéсцы; **can the leopard change its spots?** ≅ ці мóжа воўк стаць авéчкай?

**spot**[2] [spɒt] *v.* **1.** пазначáць, пакрывáць абó пакрывáцца плямамі; *This silk spots with water.* На гэтым шоўку застаюцца плямы ад вады. **2.** знеслаўля́ць, псавáць (*рэпутацыю*); *He spotted his reputation by malingering.* Ён падмачыў сваю рэпутацыю, прыкідваючыся хворым. **3.** пазнавáць; прыкмячáць, прымячáць, заўважáць; **spot a mistake** знайсцí памы́лку; **spot a criminal** пазнáць злачы́нца **4.** *infml* пакрáпваць (*пра дождж*); *It's spotting with rain.* Пакрапвае дождж.

**spot cash** [ˌspɒtˈkæʃ] *n.* апла́та ная́ўнымі грашы́ма/гато́ўкаю; неадкла́дная апла́та
**spot check** [ˌspɒtˈtʃek] *n.* **1.** вы́біарачная праве́рка **2.** праве́рка або́ рэві́зія без папярэ́джання; **make spot checks** рабі́ць праве́рку вы́біарачна
**spotless** [ˈspɒtləs] *adj.* **1.** чы́сты; **a spotless room** чы́сты пако́й **2.** незапля́млены, беззага́нны, бездако́рны; **a spotless reputation** бездако́рная рэпута́цыя **3.** без плямаў, без кра́пінак (*пра жывёл*)
**spotlight¹** [ˈspɒtlaɪt] *n.* **1.** пражэ́ктар **2. the spotlight** цэнтр ува́гі; **be in the spotlight** быць у цэ́нтры ўва́гі, звярну́ць на сябе́ ўва́гу
**spotlight²** [ˈspɒtlaɪt] *v.* **(spotlit) 1.** асвятля́ць пражэ́ктарам **2.** адцяня́ць; рабі́ць цэ́нтрам ува́гі
**spotlit** [ˈspɒtlɪt] *past, p.p.* → **spotlight²**
**spot-on** [ˌspɒtˈɒn] *adj. BrE, infml* беспамылко́вы, дакла́дны; *His assessment of the situation was spot-on.* Ён дакладна ацаніў сітуацыю.
**spotted** [ˈspɒtɪd] *adj.* **1.** плямі́сты, пярэ́сты; у кра́пінку; **a spotted leopard** плямі́сты леапа́рд; **a spotted dress** суке́нка ў кра́пінку **2.** запля́млены; **a spotted reputation** сапсава́ная рэпута́цыя
**spotted fever** [ˌspɒtɪdˈfiːvə] *n. med.* сыпны́ тыф
**spotter** [ˈspɒtə] *n. mil.* назіра́льнік (*пра самалёт*)
**spotty** [ˈspɒti] *adj.* **1.** *BrE* прышчава́ты (*твар*); **a spotty dog** рабы́ саба́ка; **a spotty horse** пярэ́сты конь **2.** *AmE* пляшы́вы; страка́ты
**spouse** [spaʊs] *n. fml or law* муж; жо́нка
**spout¹** [spaʊt] *n.* **1.** но́сік, дзю́бка, го́рлачка, гарлаві́на бутэ́лькі **2.** струме́нь; **dark spouts of smoke** цёмныя клубы́ ды́му; **a sand spout** пясча́ны смерч; **a spout of blasphemies** пато́к ла́янкі ♦ **go up the spout** *BrE, slang* **:** *His holiday plans have gone up the spout.* Яго планы на адпачынак ляснуліся.
**spout²** [spaʊt] *v.* **1.** біць струме́нем, лі́цца пато́кам; цурчэ́ць; *Blood spouted out from the wound.* З раны хлынула кроў. **2.** вылiва́ць; выпуска́ць; *A volcano spouts lava.* Вулкан вывяргае лаву; *The chimney spouted smoke*. З коміна валіў дым. **3.** *infml, derog.* разглаго́льстваваць; красамо́ўнічаць; *Children dislike being spouted at by pompous teachers.* Дзеці не любяць, калі настаўнікі гавораць пафасныя словы.
**sprain¹** [spreɪn] *n. med.* расцяжэ́нне суста́ва, дысто́рзія
**sprain²** [spreɪn] *v. med.* расцягну́ць звя́зкі; **sprain one's ankle** расцягну́ць звя́зкі шчыкалаткі
**sprang** [spræŋ] *past* → **spring³**
**sprat** [spræt] *n.* кі́лька, шпрот ♦ **throw a sprat to catch a mackerel** рызыкну́ць малы́м дзе́ля вялі́кага
**sprawl¹** [sprɔːl] *n. derog.* нязгра́бная по́за; *He sat in a sprawl*. Ён сядзеў разваліўшыся.
**sprawl²** [sprɔːl] *v.* **1.** развалі́цца; расцягну́цца, валя́цца; **sprawl on the beach** ляжа́ць на пля́жы; **send smb. sprawling** збіць каго́-н. з ног; *He sprawled across the bed.* Ён разлёгся ўпоперак ложка. **2.** распаўза́цца ва ўсе бакі́, раскі́двацца, распасціра́цца; *Suburbs sprawl out into the countryside.* Прыгарад распаўзаецца ва ўсе бакі.
**spray¹** [spreɪ] *n.* **1.** галі́нка, гро́нка; па́растак; ду́бчык; **a spray of diamonds** бро́шка ў вы́глядзе гро́нкі дыяме́нтаў **2.** буке́цік, бутанье́рка; *He had a spray in his buttonhole.* У яго была бутаньерка ў пятліцы.
**spray²** [spreɪ] *n.* **1.** пы́рскі, вадзяны́ пыл; **the spray of a waterfall** пы́рскі вадаспа́ду **2.** аэразо́ль; **scent spray** спрэй; **hair spray** лак для валасо́ў **3.** распыля́льнік, апы́рсквальнік, пульверыза́тар
**spray³** [spreɪ] *v.* **1. (on/over)** апы́рскваць; распыля́ць, распы́рскваць; *She sprayed the rosebushes with insecticide*. Яна апырскала кусты ружаў інсектыцыдам; *Water sprayed out over the floor.* Вада распырскалася па падлозе. **2.** абсыпа́ць; **spray with words** абсыпа́ць сло́вамі
**spray can** [ˈspreɪˌkæn] *n.* аэразо́льны бало́нчык
**sprayer** [ˈspreɪə] *n.* **1.** пульверыза́тар **2.** распыля́льнік; апы́рсквальнік
**spread¹** [spred] *n.* **1.** праця́гласць, разма́х, шыры ня́; **a spread of 100 years** перы́яд ча́су ў 100 гадо́ў; *The birds' wings have a spread of three feet.* Крылы гэтых птушак маюць размах у тры футы. **2.** распаўсю́джанне; рост, павелічэ́нне; **the spread of disease** распаўсю́джанне хваро́бы **3.** развaро́т (*кнігі, газеты*); газе́тны матэрыя́л (*пададзены на развароце*); **a double-page spread** матэрыя́л на дзве старо́нкі (*у газеце, часопісе і да т.п.*) **4.** *infml* накры́ты стол; **give a royal spread to smb.** пачастава́ць каго́-н. па-каралеўску **5.** насто́льніца, абру́с; прасці́на́ **6.** па́ста; ма́сла, джэм, паштэ́т і да т.п.; **a cheese spread** мя́ккі сыро́к (*плаўлены*); **herring spread** ру́блены селядзе́ц
**spread²** [spred] *v.* **(spread) 1.** рассціла́ць, раскла́даць; **spread a cloth on the table** накрыва́ць на стол **2.** нама́зваць; ма́зацца, нама́звацца; *The paint spreads well.* Фарба накладваецца добра. **3.** распаўсю́джваць; распаўсю́джвацца **4.** распасціра́ць; распасціра́цца; *The forest*

*spreads as far as the river.* Лес цягнецца аж да ракі. ♦ **spread oneself** разле́гчыся; красамо́ўнічаць; тра́ціць што-н. не шкаду́ючы; *They spread themselves to entertain their guests.* Яны нічога не шкадавалі, каб добра прыняць гасцей; **spread one's net for smb.** расста́віць па́стку каму́-н.; **spread one's wings** развіна́ць, разго́ртваць крылы; *I'm sure he'll spread his wings at this office.* Я перакананы, што ён распачне сваю актыўнасць у гэтым офісе; **spread like wildfire** разлята́цца як аго́нь (*пра навіны*)

**spread out** [ˌspredˈaʊt] *phr.v.* **1.** расця́гваць, выця́гваць **2.** рассыпа́цца (*па полі*); разгрупо́ўвацца; *The search party spread out over the moor.* Пошукавая партыя рассыпалася па забалочанай мясцовасці.

**spread-eagle** [ˌspredˈiːgl] *v.* расклада́ць; распіна́ць, распла́стваць, расця́гваць; *Sunbathers lay spread-eagled on the grass.* Адпачываючыя разлегліся на траве (раскінуўшы рукі).

**spread-sheet** [ˌspredˈʃiːt] *n. comput.* табл́іца

**spree** [spriː] *n. infml* гуля́нка, вы́піўка; **go out on a spree** вы́брацца на пагуля́нку

**sprig** [sprɪg] *n.* галі́нка, па́растак; ато́жылак; **a sprig of parsley** галі́нка пятру́шкі; **a sprig of the nobilty** *iron.* нашча́дак двара́нства або́ шля́хты

**sprightly** [ˈspraɪtli] *adj.* вясёлы, жва́вы, ажы́ўлены; **sprightly style** жывы́ стыль; бо́йкае пяро́; **sprightly steps** лёгкія кро́кі

**spring**[1] [sprɪŋ] *n.* вясна́; **in (the) spring** вясно́ю, уве́сну

**spring**[2] [sprɪŋ] *n.* **1.** крыні́ца; **spring water** крыні́чная вада́ **2.** спружы́на; рысо́ра **3.** скачо́к; **take a spring** ускó́чыць **4.** *sport* пру́гкасць, эласты́чнасць

**spring**[3] [sprɪŋ] *v.* **(sprang, sprung) 1.** скака́ць, ускó́кваць; **spring over smth.** пераско́кваць праз што-н.; **spring to one's feet** ускó́чыць на но́гі; **spring to smb.'s aid** кі́дацца каму́-н. на дапамо́гу **2.** спружы́ніць; **spring open** ра́птам адчыні́цца **3.** здзіўля́ць; ра́птам адкры́ць (*сакрэт*); **spring a surprise** прыне́сці каму́-н. неспадзява́нку **4.** *infml* вы́йсці з турмы́; дапамагчы́ каму́-н. уцячы́ **5.** дава́ць це́чу

**spring back** [ˌsprɪŋˈbæk] *phr.v.* адско́чыць, адхісну́цца

**spring up** [ˌsprɪŋˈʌp] *phr.v.* ху́тка расці́, выраста́ць; **spring up like mushrooms** расці́ як грыбы́

**spring balance** [ˌsprɪŋˈbæləns] *n. BrE* бязме́н; спружы́нныя ва́гі, ша́лі

**springboard** [ˈsprɪŋbɔːd] *n.* **1.** *sport* трампалі́н; *mil.* плацда́рм **2. (for/to)** апо́ра, зыхо́дны пункт для які́х-н. дзе́янняў; *The document provided a springboard for a lot of discussion.* Дакумент стаў пачаткам вялікай дыскусіі.

**spring chicken** [ˌsprɪŋˈtʃɪkɪn] *n.* **1.** вясе́нняе кураня́/куранё **2.** *joc.* дзяўчо́; *She is no spring chicken.* Яна ўжо не дзіця.

**spring clean** [ˌsprɪŋˈkliːn] *n. BrE* прыбіра́нне, прыбо́рка (*звыч. вясною*); **give the place a good spring clean** до́бра прыбра́ць ме́сца

**spring onion** [ˌsprɪŋˈʌnjən] *n.* зялёная цыбу́ля, пяро́ (*цыбулі*)

**sprinkle**[1] [ˈsprɪŋkl] *n.* **1.** пы́рсканне, апы́рскванне; **a sprinkle of rain** дро́бны дождж, імжа́; **a sprinkle of snow** лёгкі сняжо́к, паро́ша **2.** афарбо́ўка пульверыза́тарам

**sprinkle**[2] [ˈsprɪŋkl] *v.* пы́рскаць, апы́рскваць; крапі́ць; пасыпа́ць; *The lawn is sprinkled with daisies.* Газон усыпаны стакроткамі.

**sprinkler** [ˈsprɪŋklə] *n.* распы́рсквальнік, пульверыза́тар, спры́нклер; ле́йка; **a street sprinkler** палі́вачная машы́на

**sprinkling** [ˈsprɪŋklɪŋ] *n.* невялі́кая ко́лькасць, кро́пля; **a sprinkling of knowledge** мізэ́рныя ве́ды; **a fair sprinkling of English words** неабхо́дны мі́німум англі́йскіх слоў

**sprint**[1] [sprɪnt] *n. sport* спрынт, бег/заплы́ў на каро́ткую дыста́нцыю; **a 100-metre sprint** бег на 100 ме́траў

**sprint**[2] [sprɪnt] *v.* **1.** ірва́цца, кі́дацца; ху́тка бе́гчы **2.** бе́гчы на каро́ткую дыста́нцыю

**sprinter** [ˈsprɪntə] *n. sport* бягу́н на каро́ткія дыста́нцыі, спры́нтар

**sprite** [spraɪt] *n.* **1.** эльф; фе́я; дамаві́к; вадзяні́к; руса́лка **2.** сільфі́да

**sprocket** [ˈsprɒkɪt] *n. comput.* зо́рачка (*)

**sprout**[1] [spraʊt] *n.* **1.** па́растак, ато́жылак, па́сынак; пучо́к **2. : Brussels sprout** брусе́льская капу́ста

**sprout**[2] [spraʊt] *v.* прараста́ць, расці́; **sprout seeds** прара́шчваць се́мя **2.** адпуска́ць; **sprout a beard** адпуска́ць бараду́

**spruce**[1] [spruːs] *n. bot.* е́лка, ялі́на

**spruce**[2] [spruːs] *adj.* франтава́ты; элега́нтны; чы́сценькі, аха́йны

**spruce up** [ˌspruːsˈʌp] *phr.v.* убіра́цца; наво́дзіць лоск; *The girls were all spruced up for the occasion.* Дзяўчаты прыбраліся для такога выпадку.

**sprung** [sprʌŋ] *p.p.* → **spring**[3]

**spry** [spraɪ] *adj.* = **sprightly**

**spud** [spʌd] *n. BrE, infml* бу́льбіна, бу́льба

**spume** [spjuːm] *n. lit.* пе́на, на́кіп

**spun** [spʌn] *past, p.p.* → **spin²**

**spunk** [spʌŋk] *n. infml* мýжнасць, хрáбрасць, рашýчасць; **have plenty of spunk** быць мýжным чалавéкам

**spunky** [ˈspʌŋki] *adj. infml* **1.** адвáжны, хрáбры **2.** гарáчы, запáльчывы

**spur¹** [spɜ:] *n.* **1.** шпóра **2. (to)** сты́мул, маты́ў; **put/set spurs to smb.** падганя́ць, прыспéшваць кагó-н. **3.** шпóра (*у пеўня*) **4.** адгóр'е **5.** тупíк, вéтка, адгалінавáнне (*на чыгунцы*) ♦ **on the spur of the moment** пад уплы́вам хвілíны; экспрóмтам, імгнéнна

**spur²** [spɜ:] *v.* **(to)** прышпóрваць, падсцёбваць, падганя́ць; стымулявáць ♦ **spur a willing horse** падганя́ць кагó-н. без патрэ́бы

**spurious** [ˈspjʊəriəs] *adj.* падрóблены, падлóжны; **a spurious coin** фальшы́вая манéта

**spurn** [spɜ:n] *v.* пагáрдліва адхіля́ць (*што-н./каго-н.*), пагарджáць, грэ́баваць; **a spurned lover** непрызнáны кахáнак

**spurt¹** [spɜ:t] *n.* **1.** пры́ступ, успы́шка; **a spurt of anger** успы́шка гнéву **2.** струмéнь; *The water came out with a spurt.* Вада хлынула струменем. **3.** кідóк, рывóк; **make a spurt** ірванýцца; **put on a spurt** спяшáцца ♦ **in spurts** рыўкáмі

**spurt²** [spɜ:t] *v.* **1.** біць струмéнем; *Blood spurted from the wound.* Кроў хлынула з раны. **2.** рабíць раптóўнае намагáнне; **spurt to catch a train** імчáцца , каб паспéць на цягнíк

**sputnik** [ˈspʊtnɪk] *n.* (*штучны*) спадарóжнік

**sputter¹** [ˈspʌtə] *n. AmE* пы́рскі слíны

**sputter²** [ˈspʌtə] *v.* **1.** плявáцца, пы́рскаць слíнаю; **sputter with anger** плявáцца ад злóсці **2.** шыпéць, сквірчэ́ць; трашчáць; фы́ркаць (*пра матор*); *The fat was sputtering in the frying-pan.* Сала сквірчэла на патэльні.

**sputum** [ˈspju:tṃ] *n. med.* слíна, макрóта

**spy¹** [spaɪ] *n.* шпіён, тáйны агéнт; развéдчык; **a spy ring** шпіёнская арганізáцыя; **a police spy** агéнт палíцыі; **play the spy on smb.** шпіёніць за кім-н.

**spy²** [spaɪ] *v.* **1. (on)** шпіёніць; сачы́ць, высóчваць, цікавáць; **spy into other people's affairs** пранікáць у чыé-н. спрáвы **2.** *lit. or fml* заўважáць, прыкмячáць; *I spy someone coming up the garden path.* Я бачу, што нехта ідзе сюды па садовай сцежцы.

**spy out** [ˌspaɪˈaʊt] *phr.v.* **:** ♦ **spy out the land** ацанíць абстáвіны, разведáць сітуáцыю

**spy fiction** [ˈspaɪˌfɪkʃn] *n.* «шпіёнскі» дэтэкты́ў

**spyglass** [ˈspaɪglɑ:s] *n.* падзóрная трубá

**spy-in-the-sky** [ˌspaɪɪnðəˈskaɪ] *n.* **1.** павéтраны шпіён **2.** спадарóжнік-шпіён

**Sq** (*пісьмовае скар. ад* **Square**) плóшча, пляц; **6 Hanover Sq**. плóшча Ганóвер, дом 6

**sq** (*пісьмовае скар. ад* **square**) квадрáтны; **10 sq cm** 10 $см^2$

**squabble¹** [ˈskwɒbl] *n.* свáрка, ля́янка; перапáлка, спрэ́чка з-за дрóбязі

**squabble²** [ˈskwɒbl] *v.* **(about/over)** спрачáцца, свары́цца, ля́яцца з-за дрóбязі

**squad** [skwɒd] *n.* аддзялéнне, камáнда, брыгáда, грýпа; **an awkward squad** узвóд навабрáнцаў; **a flying squad** нарáд палíцыі; дзяжýрная паліцэ́йская машы́на; **the drugs squad** (апараты́ўная) грýпа па барацьбé з распаўсю́джваннем наркóтыкаў; **a fire-fighting squad** пажáрная камáнда; **a rescue squad** выратавáльны атрáд; **the Olympic squad** алімпíйская камáнда

**squad car** [ˈskwɒdˌkɑ:] *n.* паліцэ́йская машы́на

**squadron** [ˈskwɒdrən] *n. mil.* **1.** эскадрóн; рóта **2.** эскáдра (*ваенных караблёў*) **3.** эскадры́лля (*самалётаў*)

**squadron leader** [ˈskwɒdrən ˌli:də] *n.* **1.** *BrE* маёр авія́цыі **2.** *AmE* камандзíр эскадры́ллі

**squalid** [ˈskwɒlɪd] *adj. derog.* **1.** убóгі, мізэ́рны, занядбáны; жабрáцкі; **squalid slums** убóгія трушчóбы; **a squalid house** занядбáны дом **2.** бры́дкі; нíзкі, пóдлы; **a squalid rascal** нягóднік, падлю́га

**squall¹** [skwɔ:l] *n.* **1.** шквал; пары́вісты вéцер з дажджóм і снéгам; **a thick squall** шквал з грáдам і мóкрым снéгам; **a white squall** шквал без апáдкаў **2.** *infml* свáрка, вэ́рхал, гармíдар

**squall²** [skwɔ:l] *v.* гарлапáніць, гарлáніць, мóцна крычáць

**squally** [ˈskwɔ:li] *adj.* score шквáлісты, шквáльны, бýрны; **squally weather** дажджлíвае надвóр'е з вéтрам; **a squally wind** пары́вісты вéцер

**squalor** [ˈskwɒlə] *n.* гразь, бруд; занядбáнасць; убóства, мізэ́рнасць; **live in squalor and misery** жыць у грáзі і галéчы

**squander** [ˈskwɒndə] *v.* **(on)** трáціць; прамóтваць, марнатрáвіць, прагýльваць; **squander one's energy** растрáчваць энéргію; **squander one's health** (безразвáжна) нíшчыць здарóўе

**squanderer** [ˈskwɒndərə] *n.* мантáч, марнатрáвец; гуля́ка

**square¹** [skweə] *n.* **1.** квадрáт; **a solid square** куб; **bring a number to a square** *math.* узвóдзіць у квадрáт; *The square of three is nine.* Тры ў квадрацe роўна дзевяці. **2.** плóшча, пляц; **Trafalgar Square** Трафальгáрская плóшча **3.** навугóльнік (*для чарчэння*) **4.** *infml, derog.* мешчанíн, рэтрагра́д ♦ **be on the square** *infml* павóдзіць сябé сумлéнна; **break**

**squares** парушáць прыня́ты парáдак; **out of square** кóса; няпрáвільна

**square²** [skweə] *adj.* **1.** квадрáтны; *The room is 6 metres square.* Пакой на 6 квадратных метраў. **2.** рóўны, прáмы; *The shelf isn't square.* Паліца вісіць крыва. **3.** справядлíвы, сумлéнны (*пра ўчынкі*); **play a square** іграць у адкры́тую; **give a square deal** справядлíва дзéйнічаць **4.** рóўны (*пра лік*); **all square** з рóўным лíкам (*у гульні*) **5.** *infml* мяшчáнскі, кансерваты́ўны, дапатóпны; адстáлы; **square audience** кансерваты́ўныя гледачы́; **square music** традыцы́йная мýзыка **6.** сы́тны, шчóдры, багáты ♦ **a square meal** шчóдрая ядá; **be square with all the world** быць на рóўных правáх з усімі; **be square with smb.** расквітáцца з кім-н.

**square³** [skweə] *v.* **1.** рабíць квадрáтным абó прамавугóльным; **squared paper** папéра ў клéтку **2.** упарадкóўваць, вырóўніваць (*рахунак, вынік і да т.п.*); **square accounts with smb.** разлíчвацца з кім-н. **3.** дастасóўваць; дастасóўвацца; узгадня́ць; пагадня́цца; **square one's action by the law** узгадня́ць сваé дзéянні з закóнам **4.** узвóдзіць у квадрáт; вызначáць плóшчу; **square a circle** вы́лічыць плóшчу крýга

**square off** [ˌskweərˈɒf] *phr.v.* разбівáць на квадрáты

**square up** [ˌskweərˈʌp] *phr.v. infml* **(with)** разлíчы́цца, расплацíцца (*з кім-н.*)

**square-built** [ˌskweəˈbɪlt] *adj.* карчакавáты, каржакавáты; шыракаплéчы

**square bracket** [ˌskweəˈbrækɪt] *n.* квадрáтная дýжка

**square dance** [ˈskweəˌdɑːns] *n.* амерыкáнская кадры́ля (*танец*)

**squarely** [ˈskweəli] *adv.* прáма; **look squarely in the face** глядзéць прóста ў вóчы

**Square Mile** [ˌskweəˈmaɪl] *n.* **the Square Mile** *BrE, infml* «квадрáтная мíля», Лóнданскі дзелавы́ і фінáнсавы цэнтр

**square-root** [ˌskweəˈruːt] *n. math.* квадрáтны кóрань

**square-shouldered** [ˌskweəˈʃəʊldəd] *adj.* шыракаплéчы, плячы́сты; з прамы́мі плячáмі; з дóбрай пóстаццю

**square-toed** [ˌskweəˈtəʊd] *adj.* з тупы́мі насáмі, тупанóсы (*пра абутак*)

**squash¹** [skwɒʃ] *n.* **1.** *sport* сквош (*гульня ў мяч*) **2.** *BrE* фруктóвы напóй; **orange squash** аранжáд **3.** цісканíна, таўкатня́, натóўп

**squash²** [skwɒʃ] *n.* кабачóк; гарбýз

**squash³** [skwɒʃ] *v.* **1.** сціскáць, выціскáць; душы́ць, выдýшваць; **squash a lemon** прыгатавáць лімóнны сок **2.** упíхваць; упíхвацца; уцíскваць; уціскáцца; **squash smb. into a car** уцíснуць какó-н. у машы́ну **3.** абразáць (*у размове*), прымушáць маўчáць; **squash a rebellion** душы́ць паўстáнне

**squash up** [ˌskwɒʃˈʌp] *phr.v.* пацяснíцца; *You'll have to squash up to make room for the others.* Табе трэба будзе пасунуцца, каб даць месца іншым.

**squashy** [ˈskwɒʃi] *adj.* мя́ккі; мясíсты; **squashy cushions** узбíтыя падýшкі; **squashy pears** пераспéлыя грýшы; **squashy ground** тóпкае мéсца; грáзкая зямля́

**squat¹** [skwɒt] *n.* **1.** сядзéнне на кýкішках **2.** буды́нак, заня́ты самавóльна; самавóльнае засялéнне

**squat²** [skwɒt] *adj. derog.* каржакавáты; малéнькі; шырóкі; **a squat building** прысáдзісты буды́нак

**squat³** [skwɒt] *v.* **1.** сядзéць на кýкішках; **squat à la Japanaise** сядзéць па-япóнску (*на пятках*); **squat cross-legged** сядзéць па-турэ́цку **2.** самавóльна сялíцца на чужóй абó дзяржáўнай зямлí; засяля́цца ў пусты́ дом без дазвóлу

**squatter** [ˈskwɒtə] *n.* **1.** пасялéнец на незаня́тай абó дзяржáўнай зямлí **2.** *AustralE* сквóтар; жывёлавóд

**squaw** [skwɔː] *n. dated* скво, індыя́нка (*у Паўночнай Амерыцы*)

**squawk¹** [skwɔːk] *n.* пранíзлівы крык; клёкат; кудáхтанне; гагатáнне, гóгат

**squawk²** [skwɔːk] *v.* **1.** гагатáць; клекатáць; квахтáць, кудáхтаць **2.** *infml, joc.* гýчна скáрдзіцца, пратэставáць

**squeak¹** [skwiːk] *n.* піск, віск; скрып; **the squeak of a mouse** мышы́ны піск; **the squeak of wheels** скрып кóлаў

**squeak²** [skwiːk] *v.* **1.** пішчáць; скрыпéць, рыпéць **2.** вішчáць, скавытáць **3.** праціскáцца, пралáзіць; **squeak into the final** пралéзці ў фінaлíсты

**squeaky** [ˈskwiːki] *adj.* **1.** пісклíвы, віскліві, віскатлíвы **2.** скрыпýчы, рыпýчы, рыплíвы; **squeaky boots** бóты са скры́пам

**squeaky clean** [ˌskwiːkiˈkliːn] *adj. infml* вéльмі чы́сты; марáльна беззагáнны

**squeal¹** [skwiːl] *n.* **1.** пранíзлівы крык; вíскат, віск; **the squeal of brakes** скрып тармазóў **2.** *infml* данóс

**squeal²** [skwiːl] *v.* **1.** пранíзліва крычáць; вішчáць, верашчáць, скавытáць; **squeal in pain**

крыча́ць ад бо́лю; **squeal with delight** вішча́ць ад ра́дасці; **squeal like a pig** вішча́ць як (рэ́заная) свіння́ **2.** **(on)** *infml* быць дано́счыкам, дано́сіць

**squeamish** [ˈskwiːmɪʃ] *adj.* **1.** **: feel squeamish** нудзі́цца **2.** даліка́тны, разбо́рлівы; крыўдлі́вы; нерво́вы **3.** скрупулёзны; прынцыпо́вы, карэ́ктны (*пра прынцыпы, мараль і да т.п.*); *He's very squeamish about honour.* Ён вельмі прынцыповы ў пытаннях гонару.

**squeeze¹** [skwiːz] *n.* **1.** сціска́нне; по́ціск (*рукі*); *He gave my hand a squeeze.* Ён пацiснуў мне руку. **2.** вы́ціснуты сок; **a squeeze of lemon juice** тро́шкі вы́ціснутага со́ку лімо́на **3.** цясно́та, цісканíна; таўкатня́ **4.** ця́жкасць, склада́нае стано́вішча; **a credit squeeze** ця́жкасці з крэды́там ♦ **put the squeeze on smb.** *infml* прыці́снуць каго́-н.

**squeeze²** [skwiːz] *v.* **1.** сціска́ць, ці́снуць; выціска́ць; выду́шваць; **squeeze smb.'s hand** мо́цна сці́снуць каму́-н. руку́; **squeeze one's finger** прышчамі́ць па́лец; **squeeze a tear** вы́ціснуць слязу́; **squeeze money out of smb.** вымага́ць гро́шы ў каго́-н. **2.** упіха́ць, уціска́ць; уціска́цца; праці́скваццa; **squeeze one's way through the crowd** праціска́цца праз нато́ўп; **squeeze one's hand into a glove** з ця́жкасцю наця́гваць пальча́тку ♦ **squeeze smb. dry** вы́ціснуць усё з каго́-н.

**squeeze up** [ˌskwiːzˈʌp] *phr.v.* **: squeeze up against smb.** прыці́снуцца да каго́-н.; *Squeeze up a bit more!* Пацясніцеся крыху!

**squeezer** [ˈskwiːzə] *n.* сокавыціска́лка

**squelch¹** [skweltʃ] *n.* хлю́панне, шлёпанне

**squelch²** [skweltʃ] *v.* хлю́паць, шлёпаць (*па гразі, вадзе*)

**squib** [skwɪb] *n.* пета́рда ♦ **a damp squib** *BrE, infml* няўда́лы жарт; **go off like a damp squib** ≅ з трэ́скам правалі́цца

**squid** [skwɪd] *n. zool.* (*pl.* **squid**) кальма́р

**squidgy** [ˈskwɪdʒi] *adj. infml* мя́ккі, по́рысты; **a squidgy cake** по́рысты торт

**squiggle** [ˈskwɪgl] *n.* крамзо́лі, кара́кулі; *Is this squiggle supposed to be a signature?* Гэтыя крамзолі можна лічыць подпісам?

**squint¹** [skwɪnt] *n.* **1.** касаво́касць; **have a bad squint** быць мо́цна касаво́кім **2.** *BrE, infml* по́зірк; **have/take a squint** зірну́ць, гля́нуць

**squint²** [skwɪnt] *v.* **1.** *BrE* быць касаво́кім **2.** жму́рыцца; касаву́рыцца; глядзе́ць ско́са; *We were squinting in the bright sunlight.* Мы жмурыліся ад яркага сонечнага святла.

**squinty** [ˈskwɪnti] *adj.* касы́; **have squinty eyes** быць касаво́кім

**squire** [ˈskwaɪə] *n.* **1.** паме́шчык, сквайр **2. Squire** *infml or hum.* спада́р (*у звароткy*)

**squirm** [skwɜːm] *v.* **1.** выгіна́цца; ку́рчыцца; **squirm in agony** ку́рчыцца ў аго́ніі **2.** паце́пвацца, ку́рчыцца сарамлі́ва; **squirm under a reproach** сці́снуцца, пачу́ўшы папро́к

**squirrel** [ˈskwɪrəl] *n.* вавёрка; **a squirrel hat** ша́пка з вавёркі; **a squirrel cage** вавёрчына кле́тка з ко́лам

**squirrel away** [ˌskwɪrələˈweɪ] *phr.v.* прыхо́ўваць, назапа́шваць *(што-н.)*

**squirt¹** [skwɜːt] *n.* **1.** сла́бы, то́нкі струме́ньчык **2.** шпрыц; спрынцо́ўка **3.** *infml* наха́бнік, вы́скачка

**squirt²** [skwɜːt] *v.* **1.** пы́рскаць струме́нем; біць струме́нем; **squirt soda water into a glass** улі́ць со́давай вады́ ў шкля́нку **2.** спрынцава́ць

**squirt out** [ˌskwɜːtˈaʊt] *phr.v.* **1.** *infml* налíва́ць (*з сіфона*) **2.** выќідваць струме́нь, пы́рскаць струме́нем

**SS** (*пісьмовае скар. ад* **Saints**); **SS Paul and Peter Church** Свя́та-Петрапа́ўлаўская царква́

**St.** (*пісьмовае скар. ад*)**: 1. Saint** Святы́ (*у назвах*); **St Paul's (Cathedral)** Сабо́р Свято́га Па́ўла **2. Street** ву́ліца; **Regent St.** Ры́джэнтстрыт **3.** *AmE* **State** штат

**st** (*пісьмовае скар. ад* **stone**) стоўн (*14 фунтаў*)

**stab¹** [stæb] *n.* **1.** уда́р (*нажом, кінжалам і да т.п.*) **2.** рапто́ўны боль, уко́л; пры́ступ, рапто́ўнае пачуццё; **a stab of joy** прылі́ў ра́дасці; **a stab of guilt** во́стры боль віны́; **have a stab at smth./doing smth.** *infml* спро́ба зрабі́ць што-н. ♦ **a stab in the back** уда́р у спі́ну; здра́дніцкі ўдар

**stab²** [stæb] *v.* **1.** кало́ць, ра́ніць (*кінжалам, нажом і да т.п.*) **2.** **(at)** ты́каць, то́ркаць ♦ **stab smb. in the back** усадзі́ць нож у спі́ну; нане́сці здра́дніцкі ўда́р

**stabbing** [ˈstæbɪŋ] *adj.* прані́злівы, во́стры; **a stabbing pain** ве́льмі во́стры боль; **stabbing glare** асляпля́льнае святло́

**stability** [stəˈbɪləti] *n.* усто́йлівасць, стабі́льнасць, трыва́ласць

**stabilize,** *BrE* **-ise** [ˈsteɪbəlaɪz] *v.* стабілізава́ць, станаві́цца стабі́льным; **stabilize the dollar** стабілізава́ць курс до́лара

**stabilizer,** *BrE* **-iser** [ˈsteɪbəlaɪzə] *n.* стабіліза́тар

**stable¹** [ˈsteɪbl] *n.* **1.** ста́йня, каню́шня, хлеў **2.** ко́нны заво́д

**stable²** [ˈsteɪbl] *v.* ста́віць у каню́шню, трыма́ць у каню́шні

**stable³** [ˈsteɪbl] *adj.* усто́йлівы, трыва́лы, мо́цны, стабі́льны; **stable peace** трыва́лы мір; **stable currency** усто́йлівая валю́та; *I want a stable job.* Мне патрэбна штатная пасада.

**stableman** [ˈsteɪblmən] *n.* (*pl.* **-men**) ко́нюх

**stabling** [ˈsteɪblɪŋ] *n.* канoccurred ню́шня, сто́йла (*для каня*)

**staccato** [stəˈkɑːtəʊ] *adj., adv. mus.* стака́та; **staccato rhythm** *ling.* рэ́зкі, кантра́сны рытм

**stack¹** [stæk] *n.* **1.** стог (*сена*); тарпа́, сці́рта (*саломы*) **2.** ку́ча, гру́да; шта́бель; **a stack of books** стос кніг **3.** *infml* мно́ства, бе́зліч; **a stack of time** про́цьма ча́су **4.** ко́мін (*фабрыкі*) **5.** *comput.* «завіса́нне» **6.** *pl.* **stacks** кні́жныя палі́цы ♦ **a stack of bones** *AmE* ску́ра ды ко́сці; **stacks of the ready** ≅ гро́шай ку́ры не клюю́ць

**stack²** [stæk] *v.* **1.** скла́дваць у ку́чу або́ ў ко́пы; стагава́ць; **stack logs into piles** скла́дваць дро́вы штабяля́мі **2.** *infml* **(against)** падтасо́ўваць; стасава́цца; *The cards were stacked against him.* Усё было супраць яго. **3.** эшалані́раваць самалёты пе́рад захо́дам на паса́дку ♦ **stack one's opponent on his shoulders** палажы́ць апане́нта на абе́дзве лапа́ткі

**stadium** [ˈsteɪdiəm] *n.* (*pl.* **stadiums** *or* **stadia**) стадыён

**staff¹** [stɑːf] *n.* (*pl.* **staffs** *or* **staves**) *dated or fml* **1.** кій, ля́ска; жэ́рдка; падпо́ра; **walk with a staff** хадзі́ць, абапіра́ючыся на кій **2.** флагшто́к **3.** жазло́, сі́мвал ула́ды

**staff²** [stɑːf] *n.* **1.** персана́л, ка́дры; **be on the staff** бы́ць у шта́це; **cut down the staff** скарача́ць шта́ты; **staff members** супрацо́ўнікі (*установы*); **the teaching staff** наста́ўнікі; прафе́сарска-выкла́дчыцкі ста́ў; **the nursing staff** сярэ́дні медыцы́нскі персана́л **2.** *mil.* штаб; **the General Staff** генера́льны штаб ♦ **the staff of life** *lit.* надзённы хлеб, гало́ўныя праду́кты харчава́ння

**staff³** [stɑːf] *v.* набіра́ць ка́дры, забяспе́чваць персана́лам, укамплекто́ўваць шта́ты

**staff up** [ˌstɑːfˈʌp] *phr.v.* павялі́чваць штат; *It was a well-staffed up hotel.* Гэта быў добра ўкамплектаваны штатамі гатэль.

**staffer** [ˈstɑːfə] *n. infml* шта́тны супрацо́ўнік

**staffing** [ˈstɑːfɪŋ] *n.* ка́дравае забеспячэ́нне, укамплектава́нне ка́драмі

**staff nurse** [ˈstɑːfˌnɜːs] *n.* мало́дшая медсястра́ (*у Вялікабрытаніі*)

**staff sergeant** [ˈstɑːfˌsɑːdʒənt] *n.* старэ́йшы сяржа́нт, штаб-сяржа́нт

**stag** [stæg] *n.* **1.** але́нь-саме́ц **2.** *infml* кавале́р без да́мы

**stage¹** [steɪdʒ] *n.* **1.** сцэ́на, тэатра́льныя падмо́сткі; **the front of the stage** авансцэ́на; **up stage** за́дняя ча́стка сцэ́ны **2. the stage** тэа́тр, сцэ́на, тэатра́льная дзе́йнасць; драматы́чнае маста́цтва; **be/go on the stage** быць/стаць акцёрам; **leave/quit the stage** пакі́нуць сцэ́ну; **hold the stage** не сыхо́дзіць са сцэ́ны (*пра п'есу*); быць цэ́нтрам ува́гі **3.** арэ́на, ме́сца дзе́яння; **the stage of politics** паліты́чная арэ́на; **work at the stage of literature** працава́ць на літарату́рнай ні́ве

**stage²** [steɪdʒ] *n.* фа́за, ступе́нь, эта́п; **a stage of development** ста́дыя развіцця́; **a stage of latency** *med.* інкубацы́йны перы́яд; **at this stage** на да́дзеным эта́пе

**stage³** [steɪdʒ] *adj.* сцэні́чны, тэатра́льны; **stage effects** сцэні́чныя эфе́кты; **stage lights** агні́ ра́мпы; **stage slang** акцёрскі жарго́н; **a stage Englishman** англіча́нін, які́м яго́ звыча́йна пака́зваюць на сцэ́не

**stage⁴** [steɪdʒ] *v.* **1.** ста́віць п'е́су; ста́віцца (*пра п'есу*); *The play stages well.* П'еса вельмі сцэнічная. **2.** арганізо́ўваць (*паказ чаго-н.*); здзяйсня́ць; **stage a show** пака́зваць шо́у; **stage a strike** вы́йсці на забасто́ўку **3.** інсцэні́раваць (*раман, навелу і да т.п.*); **stage an accident** інсцэні́раваць няшча́сны вы́падак

**stagecoach** [ˈsteɪdʒkəʊtʃ] *n.* пашто́вая карэ́та, дыліжа́нс

**stagecraft** [ˈsteɪdʒkrɑːft] *n.* драматургі́чнае майстэ́рства; майстэ́рства рэжысёра або́ акцёра

**stage direction** [ˈsteɪdʒdɪˌrekʃn] *n.* **1.** сцэні́чная рэма́рка **2.** пастано́ўка, рэжысу́ра

**stage director** [ˈsteɪdʒdɪˌrektə] *n.* тэатра́льны рэжысёр

**stage door** [ˌsteɪdʒˈdɔː] *n.* службо́вы ўвахо́д у тэа́тр; **stage door Johnny** прыхі́льнік актры́сы (*які падпільноўвае яе ля выхаду*)

**stage fright** [ˈsteɪdʒˌfraɪt] *n.* хваліва́нне пе́рад вы́хадам на сцэ́ну; страх пе́рад гледача́мі

**stagehand** [ˈsteɪdʒhænd] *n.* рабо́чы сцэ́ны

**stage-manage** [ˌsteɪdʒˈmænədʒ] *v.* **1.** ста́віць (*п'есу, оперу*) **2.** быць сва́там (*на вяселлі*) **3.** арганізо́ўваць, до́бра падрыхто́ўваць (*імпрэзу*) **4.** працава́ць памо́чнікам рэжысёра

**stage-manager** [ˌsteɪdʒˈmænədʒə] *n.* памо́чнік рэжысёра

**stage-struck** [ˈsteɪdʒstrʌk] *adj.* захо́плены тэа́трам; той, хто імкне́цца да тэатра́льнай дзе́йнасці; *She is stage-struck.* Яна аж вар'яцее – так хоча стаць актрысаю.

**stage whisper** [ˌsteɪdʒˈwɪspə] *n.* тэатра́льны шэпт, гу́чны шэпт са сцэ́ны (*каб пачулі гледачы*)

**stagger¹** [ˈstægə] *n.* хіста́нне; ваға́нне; *He set off with a stagger.* Ён крануўся з месца хістаючыся.

**stagger²** [ˈstægə] *v.* **1.** хіста́цца, ісці́ хіста́ючыся; *He staggered to his feet.* Ён ледзь устаў.

**2.** вага́цца, быць нерашу́чым, выкліка́ць сумне́нні **3.** ашаламля́ць; узруша́ць; *I was staggered to hear the news.* Я быў узрушаны, калі пачуў навіны. **4.** размяркóўваць; склада́ць рухóмы графік; *The work is staggered in three shifts.* Работа разбіта на тры змены.

**staggering** [ˈstæɡərɪŋ] *adj.* **1.** няўстóйлівы; які́ хіста́ецца, калыва́ецца, вага́ецца **2.** ашаламля́льны, агрóмністы, дзі́ўны; **a staggering achievement** надзвыча́йнае дасягне́нне

**staging** [ˈsteɪdʒɪŋ] *n.* **1.** пастанóўка (*п'есы*); інсцэнірóўка (*рамана*) **2.** падмóсткі; рыштава́нне

**staging post** [ˈsteɪdʒɪŋˌpəʊst] *n.* стая́нка, эта́п (*у час падарожжа*)

**stagnant** [ˈstæɡnənt] *adj.* **1.** стая́чы, за́тхлы, застóйны (*пра ваду*) **2.** кóсны, іне́ртны; *Business was stagnant last month.* У мінулым месяцы справа не зрушылася з месца.

**stagnate** [stæɡˈneɪt] *v.* **1.** застóйвацца (*пра ваду*); загніва́ць **2.** быць іне́ртным, кóсным; **stagnate in ignorance** закасне́ць у не́вуцтве

**stagnation** [stæɡˈneɪʃn] *n.* **1.** застóй, кóснасць, стагна́цыя; **stagnation of production** застóй у вытвóрчасці; **fall into stagnation** дайсці́ да стагна́цыі **2.** *med.* застóй крыві́, вянóзны застóй

**stag party** [ˈstæɡˌpɑːti] *n. BrE* халасця́цкая вечары́нка, вечары́нка без жанчы́н

**stag(e)y** [ˈsteɪdʒi] *adj.* тэатра́льны, сцэні́чны; паказны́, афектава́ны; *The room was decorated with stagy opulence.* Пакой быў убраны з вялікай паказухаю.

**staid** [steɪd] *adj.* цвярóзы; разва́жлівы; пава́жны; *He was rather a staid gentleman.* Ён быў разважлівым джэнтльменам.

**stain¹** [steɪn] *n.* **1.** пля́ма; **a stain remover** срóдак для вывядзе́ння пля́маў **2.** цень, га́ньба; **the stain upon his honour** цень на ягó рэпута́цыі **3.** фа́рба; пратра́ва; фарбава́льнік

**stain²** [steɪn] *v.* **1.** пэ́цкаць; пэ́цкацца; пля́міць; псава́ць; псава́цца; **stuff that doesn't stain easily** ня́маркі матэрыя́л **2.** *fml* га́ньбіць, псава́ць (*рэпутацыю, імя і да т.п.*); **stained with vice** пóўны зага́н **3.** фарбава́ць, мары́ць (*драўніну*), прапі́тваць (*падлогу*); *He stained the wood dark brown.* Ён прамарыў драўніну карычневай фарбай.

**stained glass** [ˌsteɪndˈɡlɑːs] *n.* вітра́жнае шкло, калярóвае шкло; **stained glass windows** вітражы́

**stainless** [ˈsteɪnləs] *adj.* **1.** незапля́млены; **stainless knives** нажы́ з нержаве́йкі **2.** бездакóрны, сумле́нны; **a stainless reputation** бездакóрная рэпута́цыя

**stainless steel** [ˌsteɪnləsˈstiːl] *n.* нержаве́ючая сталь

**stair** [steə] *n.* **1.** прысту́пка, ступе́нька **2.** *pl.* **stairs** ле́свіца; схóды; **moving stairs** эскала́тар; **a flight of stairs** ле́свічны пралёт; **winding stairs** пажа́рная ле́свіца; **at the foot of the stairs** на ні́жняй пляцóўцы (*лесвічнай клеткі*); **go down/up stairs** спуска́цца/узды́ма́цца па ле́свіцы ♦ **below stairs** *BrE, dated* у ку́хні, сярóд прыслу́гі

**staircase** [ˈsteəkeɪs] *n.* ле́свіца (*у будынку*), схóды, ле́свічная кле́тка; **a corkscrew/spiral/winding staircase** віты́я схóды; **a principal staircase** пара́дная ле́свіца

**stairway** [ˈsteəweɪ] *n.* ле́свіца, схóды

**stairwell** [ˈsteəwel] *n.* ле́свічная кле́тка

**stake¹** [steɪk] *n.* **1.** кол, слуп, ты́чка, стóйка; **set/drive stakes** *AmE* сяля́цца на (пастая́ннае) ме́сца жыха́рства; **move/pull up stakes** *AmE* перасяля́цца, здыма́цца з ме́сца; **be burnt at the stake** быць спа́леным жывы́м (*як пакаранне*) **2.** *pl.* **stakes** ста́ўка, закла́д, ры́зыка; **play cards for stakes** ігра́ць у ка́рты на грóшы; **play for high stakes** рызыкава́ць усі́м ♦ **be at stake** быць паста́ўленым на ка́рту; знахóдзіцца пад пагрóзаю; **lay down/set smth. at (the) stakes** ста́віць што-н. на ка́рту, рызыкава́ць чым-н.

**stake²** [steɪk] *v.* **1.** **(on)** рабі́ць ста́ўку, ста́віць на ка́рту; *I stake my reputation on his honesty.* За яго сумленнасць я ручаюся сваім добрым імем. **2.** загарóджваць, абгарóджваць; *We staked the newly planted trees.* Мы абгарадзілі калочкамі маладзенькія дрэўцы.

**stake out** [ˌsteɪkˈaʊt] *phr.v.* назіра́ць за пэ́ўным уча́сткам; *AmE, infml* назнача́ць (*асабліва паліцэйскага*) на пэ́ўны ўча́стак пра́цы

**stakeout** [ˈsteɪkaʊt] *n.* паліцэ́йскі нагля́д; паліцэ́йскі пост

**stalactite** [ˈstæləktaɪt] *n.* сталакты́т

**stalagmite** [ˈstæləɡmaɪt] *n.* сталагмі́т

**stale¹** [steɪl] *adj.* **1.** нясве́жы, нянóвы; чэ́рствы; **stale bread** чэ́рствы хлеб; **stale air** за́тхлае паве́тра; **stale water** гніла́я вада́; **stale meat** мя́са з душкóм **2.** стары́, збі́ты, шаблóнны; **a stale compliment** пóшлы камплі́ме́нт; **a stale joke** стары́ анекдóт **3.** стóмлены; **go stale** *sport* ператрэнірава́цца; стра́ціць спарты́ўную фóрму

**stale²** [steɪl] *v.* тра́ціць навізну́, старэ́ць; знóшвацца; станаві́цца нясма́чным, вычыха́цца (*пра піва, віно і да т.п.*)

**stalemate¹** [ˈsteɪlmeɪt] *n.* **1.** мат (*пра шахматы*) **2.** мёртвая кро́пка; бязвы́хаднае стано́вішча, тупі́к; **break the stalemate** знайсці́ вы́йсце з тупіка́; **be at a stalemate** быць на мёртвай кро́пцы

**stalemate²** [ˈsteɪlmeɪt] *v.* ста́віць у бязвы́хаднае стано́вішча, заганя́ць у тупі́к; *Negotiations have been stalemated.* Перамовы зайшлі ў тупік.

**stalk¹** [stɔːk] *n.* **1.** сцябло́; чарано́к; пладано́жка **2.** но́жка (*кілішка*); **a cabbage stalk** качары́жка, хра́пка

**stalk²** [stɔːk] *v.* **1.** падкрада́цца, падкра́двацца; выцікоўваць; **stalk a deer** высо́чваць алéня; **stalk a criminal** праслéдаваць злачы́нца **2.** кро́чыць, ступа́ць **3.** *fml* распаўсю́джвацца, распаўза́цца; *Fear stalks the town at night.* Ноччу страх апаноўвае горад.

**stalker** [ˈstɔːkə] *n.* паляўні́чы, ло́ўчы

**stall¹** [stɔːl] *n.* **1.** сто́йла; ста́йня, хлеў **2.** ларо́к, кіёск, ша́пік; пала́тка (*на кірмашы*) **3.** *pl.* **the stalls** *BrE* партэ́р (*у тэатры*) **4.** *pl.* **stalls** *eccl.* мéсцы на клі́расе для пéўчых і духавéнства **5.** кабі́на; **a shower stall** душава́я кабі́на **6.** заглушэ́нне мато́ра (*машыны*)

**stall²** [stɔːl] *v.* **1.** спыня́ць; спыня́цца; сто́парыць; засто́парыцца; *The car stalled at the roundabout.* Машына спынілася каля кальцавой развілкі. **2.** уві́льваць, ухіля́цца (*ад чаго-н.*); *Stop stalling and give me an answer!* Перастань выкручвацца і дай мне адказ! **3.** гло́хнуць, заглуша́ць, заглу́шваць (*рухавік*)

**stall-holder** [ˈstɔːlˌhəʊldə] *n. BrE* улада́льнік кіёска, ша́піка і да т.п.

**stallion** [ˈstæljən] *n. agr.* жарабéц, жарабо́к

**stalwart** [ˈstɔːlwət] *adj.* **1.** *fml* мо́цны, ду́жы, мажны́ **2.** му́жны, сто́йкі, рашу́чы; **a stalwart will** непахі́сная во́ля; **a stalwart knight** адва́жны ры́цар

**stamen** [ˈsteɪmən] *n. bot*. тычы́нка

**stamina** [ˈstæmɪnə] *n.* **1.** жыццёвая сі́ла; жыву́часць **2.** сто́йкасць, выно́слівасць, трыва́ласць, цягаві́тасць; **moral stamina** мара́льная сто́йкасць; **lack stamina** быць сла́бым, невыно́слівым

**stammer¹** [ˈstæmə] *n.* заіка́нне; мармыта́нне; *He has always had a slight stammer.* Ён заўжды крыху заікаўся.

**stammer²** [ˈstæmə] *v.* **1.** заіка́цца, запіна́цца; **stammer from excitement** заіка́цца ад хваля-ва́ння; **stammer over a word** запну́цца на які́м-н. сло́ве **2.** вымаўля́ць з запі́нкаю, мармыта́ць; *He stammered out apologies.* Ён прамармытаў словы прабачэння.

**stammerer** [ˈstæmərə] *n.* заі́ка; мармыту́н

**stamp¹** [stæmp] *n.* **1.** (*таксама* **postage stamp**) *fml* паштóвая ма́рка; **an 18p stamp** ма́рка за 18 пéнсаў; **collect stamps** збіра́ць ма́ркі **2.** (*таксама* **trading stamp**) «прэміяльная» ма́рка (*якая дадаецца да тавару, а пасля абменьваецца на іншы тавар*) **3.** штэ́мпель, штамп; пяча́тка **4.** ту́пат, ту́панне, тупані́на **5.** *fml* кляймо́, след, адбі́так; прыкмéта; **the stamp of truth** след пра́ўды; **set a stamp upon smth.** пакі́нуць след на чым-н.; *He bears the stamp of breeding.* У ім адчуваецца выхаванне. **6.** *fml* род, сорт, тып, склад; гату́нак; **men of that stamp** лю́дзі тако́га скла́ду

**stamp²** [stæmp] *v.* **1.** ту́паць (*наго́й*), тапта́ць, трамбава́ць; **stamp smth. flat** растапта́ць што-н.; **stamp in anger** ту́паць нага́мі ад зло́сці; **stamp the snow from one's boots** абіва́ць з абу́тку снег **2.** ста́віць пяча́тку, штампава́ць; **stamp a passport** ста́віць пяча́тку ў па́шпарце **3.** прыклéйваць, наклéйваць ма́ркі; *I enclose a stamped addressed envelope for your reply*. Я ўкладваю канверт з маркамі і маім адрасам вам для адказу. **4.** захо́ўваць, запаміна́ць; *The date is forever stamped in her memory.* Гэты дзень захаваўся ў яе памяці назаўсёды. **5.** характарызава́ць; *This achievement stamps her as a genius.* Гэтае дасягненне сведчыць аб яе геніяльнасці.

**stamp out** [ˌstæmpˈaʊt] *phr.v.* **1.** зато́птваць (*агонь*) **2.** выкараня́ць, вынішча́ць; **stamp out epidemics** ліквідава́ць эпідэ́міі; **stamp out a rebellion** задушы́ць паўста́нне

**stamp collector** [ˈstæmpkəˌlektə] *n.* філатэлі́ст, калекцыянéр паштóвых ма́рак

**stamp duty** [ˈstæmpˌdjuːti] *n.* гéрбавы збор (*у Брытаніі*)

**stamped addressed envelope** [ˌstæmptədrestˈenvɪləʊp] *n. BrE* канвéрт з ма́ркамі і з адваро́тным а́драсам

**stampede¹** [stæmˈpiːd] *n.* **1.** пані́чны страх **2.** пані́чныя ўцёкі, стыхі́йны ма́савы рух; *There was a stampede from the burning house.* Усе кінуліся ўцякаць з палаючага дома.

**stampede²** [stæmˈpiːd] *v.* **1.** кі́дацца ўрассыпну́ю, бе́гчы ў па́ніцы; выклі́каць па́ніку **2.** прымуша́ць, змуша́ць (*пагрозамі, угаворамі і да т.п.*); **stampede smb. into doing smth.** прымуша́ць каго́-н. зрабі́ць што-н.

**stamping ground** [ˈstæmpɪŋˌgraʊnd] *n. infml* улюбёнае мéсца; *It is his favourite stamping ground.* Ён тут увесь час швэндаецца.

**stance** [stæns] *n.* **1.** по́за; сто́йка; **a left-hand stance** левабако́вая сто́йка (*у боксе*); **a threat-**

**ening stance** пагрóзлівая пóза **2. (on)** пазíцыя, устанóўка; **a moralizing stance** маралізавáнне; **a self-interested stance** эгаістычная пазíцыя; *What's your stance on corporal punishment?* Як вы ставіцеся да смяротнага пакарання?

**stanch** [ˈstɑːntʃ] *v.* = **staunch**

**stanchion** [ˈstɑːntʃən] *n. fml* падпóрка, стóйка; слуп, калóна

**stand**[1] [stænd] *n.* **1.** пазíцыя; пóгляд; **take a stand on smth.** займáць пазíцыю аднóсна чагó-н.; **make a stand for smth./smb.** адстóйваць штó-н./кагó-н. **2.** супраціўлéнне; абарóна; **the last stand** апóшняя лíнія абарóны; **a goal-line stand** *sport* абарóна лíніі варóт **3.** падстáўка; вéшалка; **a coat-and-hat stand** вéшалка-стаяк; **an umbrella stand** падстáўка для парасóнаў; **a conductor's stand** дырыжóрскі пульт **4.** кіёск, ларóк; **a fruit stand** палáтка для прóдажу садавíны **5.** трыбýна (*на скачках*); **play to the stands** ігрáць на гледачá **6.** кáфедра, трыбýна **7.** стаянка для машын (*якія чакаюць пасажыраў*) **8.** *theatre* прыпынак у якíм-н. мéсцы для гастрóльных пакáзаў; **a one-night stand** аднадзённыя гастрóлі **9.** мéсца для свéдак у судзé

**stand**[2] [stænd] *v.* **(stood) 1.** стаяць; знахóдзіцца (*у якім-н. стане*); **stand alone** не мець прыхíльнікаў; не мець рóўнага; **stand by smb.** падтрымліваць кагó-н.; **stand firm** стаяць на свaíм; **stand on one's hands/head** стаяць на рукáх/галавé; стаяць дагары нагáмі; *My hair stood on end.* У мяне валасы сталі дыбам. **2.** мець вышыню́; *He stood six feet.* Ён меў рост шэсць футаў. **3.** стáвіць, размяшчáць; **stand smth. on its head** пераварóчваць штó-н. дагары нагáмі **4.** заставáцца (*у якім-н. стане*); **stand idle** не працавáць (*пра станок*); **stand for smth.** азначáць штó-н.; падтрымліваць **5.** цярпéць, трывáць, вытрымліваць; **stand one's ground** не здавáцца **6.** частавáць; фундавáць **7.** быць кандыдáтам ♦ **stand a chance** мець шáнец; **stand trial** стаяць пéрад судóм; **it stands to reason** усё ясна, зразумéла; **stand on one's own/two feet/legs** жыць самастóйна/без аніякай дапамóгі

**stand apart** [ˌstændəˈpɑːt] *phr.v.* трымáцца асóбна; быць навóдшыбе

**stand aside** [ˌstændəˈsaɪd] *phr.v.* = **stand apart**

**stand back** [ˌstændˈbæk] *phr.v.* адступíцца, адысцí, не брáць удзéл; *I must stand back from my day-to-day business.* Я павінен адключыцца ад штодзённай працы.

**stand by** [ˌstændˈbaɪ] *phr.v.* **1.** быць безудзéльным назірáльнікам; *How can you stand by and let your son ruin himself!* Як ты можаш быць абыякавай да таго, што твой сын губіць сябе! **2.** быць напагатóве; **stand by for further instructions** чакáць далéйшых указáнняў

**stand down** [ˌstændˈdaʊn] *phr.v.* уступáць (сваё) мéсца; давáць камý-н. дарóгу; *If you want the job, I'll stand down.* Калі табе патрэбна гэтая праца, я саступлю.

**stand in** [ˌstændˈɪn] *phr.v.* замяшчáць (*каго-н.*); быць у давéры

**stand off** [ˌstændˈɒf] *phr.v.* **1.** трымáцца на адлéгласці; заставáцца ўбакý **2.** быць непрыстýпным, нявéтлівым; **stand off from one's friends** не мець блíзкіх сябрóў **3.** звальняць (*з працы*)

**stand out** [ˌstændˈaʊt] *phr.v.* **1.** выступáць; вылучáцца, вытыркáцца, адрóзнівацца; *He stood out from the rest of the team.* Ён вылучаўся сярод усіх членаў каманды. **2.** вытрымліваць, выстóйваць; **stand out a storm** вытрымаць бýру; не саступáць, быць прынцыпóвым; **stand out for one's claims** трымáцца сваíх патрабавáнняў

**stand up** [ˌstændˈʌp] *phr.v.* **1.** уставáць **2.** вытрымліваць, не паддавáцца; **stand up for smth.** заступáцца, абаранять, адстóйваць штó-н.

**standard**[1] [ˈstændəd] *n.* **1.** стандáрт, мéрка, нóрма; узрóвень; **set high standards** устанаўлівáць высóкі ўзрóвень; **up to standard** на адпавéдным узрóўні **2.** сцяг, штандáр; **the royal standard** каралéўскі штандáр

**standard**[2] [ˈstændəd] *adj.* **1.** стандáртны, тыпóвы; звычáйны **2.** які адпавядáе прынятай нóрме; унармавáны (*пра мову*); **standard English** англíйская літаратýрная мóва

**standard-bearer** [ˈstændədˌbeərə] *n. fml* **1.** сцяганóсец **2.** кіраўнíк рýху, лíдар, правадыр

**standartization,** *BrE* **-isation** [ˌstændədaɪˈzeɪʃn] *n.* стандартызáцыя, нармалізáцыя

**standardize,** *BrE* **-ise** [ˈstændədaɪz] *v.* стандартызавáць, нармалізавáць

**standard lamp** [ˈstændədˌlæmp] *n. BrE* таршэ́р

**standard of living** [ˌstændədəvˈlɪvɪŋ] *n.* жыццёвы ўзрóвень

**standard time** [ˈstændədˌtaɪm] *n.* паясны час; дэкрэ́тны час

**standby** [ˈstændbaɪ] *n.* (*pl.* **standbys**) надзéйны чалавéк, надзéйная апóра; **have smth. as a standby** мець штó-н. на ўсякі выпадак ♦ **on standby** у стáне баявóй гатóўнасці

**standfast** [ˈstændfɑːst] *adj.* надзéйны, нязмéнны, трывáлы

**stand-in** [ˈstændɪn] *n.* **1.** замéна **2.** дублёр (*у кіно*)

**standing¹** [ˈstændɪŋ] *n.* **1.** рэпутáцыя, станóвішча, аўтарытэ́т (*у грамадстве*); **a scientist of high standing** навукóвец высóкага клáса **2.** працягласць, даўжыня́; **a tradition of long standing** дáўняя традыцыя

**standing²** [ˈstændɪŋ] *adj.* **1.** стая́чы; **standing corn** хлеб на кóрані; **give a standing ovation** мóцна апладзíраваць (*стоячы*) **2.** *sport* у стóйцы; **a standing jump** скачóк з мéсца **3.** пастая́нны, стáлы; бесперашкóдны; **a standing dish** дзяжýрная стрáва; звычáйная тэ́ма; **a standing set** *theatre* аднá дэкарáцыя (*для ўсёй п'есы*); **a standing joke** дзяжýрны жарт

**standing room** [ˈstændɪŋˌrʊm] *n.* стая́чае мéсца, мéсца для стая́ння; **standing room only** білéты тóлькі на стая́чыя мéсцы (*аб'ява*)

**standoffish** [ˌstændˈɒfɪʃ] *adj. infml* нявéтлівы, сухí; стры́маны; **be standoffish with smb.** стáвіцца да каго́-н. сýха

**standpoint** [ˈstændpɔɪnt] *n.* пункт глéджання, пункт пóгляду; **from a practical standpoint** з практы́чнага пýнкту глéджання

**St Andrew's Day** [sntˈændruːzˌdeɪ] *n.* Дзень Святóга Андрэ́я (*нацыянальнае свята Шатландыі, 30 лістапада*)

**standstill** [ˈstændstɪl] *n.* застóй, бяздзéйнасць; пóўнае спынéнне; **come to a standstill** спынíцца

**stand-up** [ˈstændʌp] *adj.* стая́чы; **a stand-up collar** стая́чы каўнéрык; **have a stand-up meal** éсці стóячы, на хадý; **a stand-up fight** кулáчная бóйка; **a stand-up comic** эстрáдны кóмік; **a stand-up piece** *AmE* выступлéнне ў прамóй перадáчы (*на тэлебачанні*)

**stank** [stæŋk] *past* → **stink²**

**stanza** [ˈstænzə] *n. poet.* страфá; **a ballad stanza** балáдная страфá

**staple¹** [ˈsteɪpl] *n.* **1.** сашчэ́пка **2.** *tech.* кля́мар, скрэ́па

**staple²** [ˈsteɪpl] *n.* галóўны прадýкт гáндлю; галóўныя прадýкты харчавáння **2.** галóўны элемéнт, галóўная чáстка (*чаго-н.*); сýтнасць (*чаго-н.*); **the staple of the diet** галóўны прадýкт для дыéты; **the staple of the language** аснóва мóвы

**staple³** [ˈsteɪpl] *adj*. галóўны; **staple crops** галóўныя сельскагаспадáрчыя культýры

**stapler** [ˈsteɪplə] *n.* стэ́плер, сашчэ́пнік

**star¹** [stɑː] *n.* **1.** зóрка, зарá; **an evening star** вячóрка, вечарнíца; **a morning star** зарáнка; **a shooting star** знíчка; *He stays at five-star hotels.* Ён жыве ў найлепшых пяцізоркавых гатэлях. **2.** дóля, лёс; **be born under a lucky star** нарадзíцца пад шчаслíвай зóркай; *You may thank your stars.* Можаш дзякаваць Богу. **3.** зóрка экрáна, літаратýры і да т.п.; **a star turn** галóўны нýмар прагрáмы ♦ **see stars** *infml* **:** *I saw stars.* У мяне з вачэй іскры пасыпаліся; **bless my stars!** бóжа ты мой! вось табé і на!

**star²** [stɑː] *v.* **1.** адзначáць зóрачкай (*у друку*) **2.** ігрáць галóўную рóлю; *She starred in a new film.* Яна выконвала галоўную ролю ў новым фільме. **3.** усéйваць зóркамі; *The sky was starred.* Неба было ўсыпана зоркамі.

**starboard** [ˈstɑːbɔːd] *n.* прáвы борт

**star-bright** [ˌstɑːˈbraɪt] *adj. poet.* я́ркі як зóрка

**starch¹** [stɑːtʃ] *n.* **1.** крухмáл **2.** *pl.* **starches** крухмáлістыя прадýкты

**starch²** [stɑːtʃ] *v.* крухмáліць

**starchy** [ˈstɑːtʃi] *adj.* **1.** накрухмáлены; крухмáлісты **2.** *infml* чапуры́сты, начапýраны, надзьмýты; штýчны

**star-crossed** [ˌstɑːˈkrɒst] *adj. lit.* нешчаслíвы, які́ нарадзíўся пад нешчаслíвай зóркай

**stardom** [ˈstɑːdəm] *n.* вядýчае станóвішча зóркі ў тэ́атры, кінó; **reach stardom** стаць зóркаю

**stare¹** [steə] *n.* здзíўлены абó пíльны пóзірк; **give smb. a stare** гля́нуць на каго́-н. са здзіўлéннем; вы́лупіць вóчы на каго́-н.; вы́лупіцца

**stare²** [steə] *v.* **1.** пíльна глядзéць, утарóпіцца; **make people stare** здзіўля́ць каго́-н.; **stare into smb.'s eyes** пíльна глядзéць камý-н. у вóчы; **stare into space** глядзéць і нічóга не бáчыць **2.** кíдацца ў вóчы **3.** зéўраць, выступáць (*на фоне чаго-н.*); *Rows of empty windows stared from the house.* Дом зеўраў радамі пустых вокнаў. ♦ **stare smb. into confusion** збянтэ́жыць каго́-н. пíльным пóзіркам; **stare smb. in the face** дзёрзка глядзéць на каго́-н.; *Ruin stared him in the face.* Яму пагражала галеча.

**stare down** [ˌsteəˈdaʊn] *phr.v. BrE* прымýсіць каго́-н. апусцíць вóчы, збянтэ́жыць каго́-н.; **stare down a stranger** вылýпліваца на незнаёмага

**stare out** [ˌsteərˈaʊt] *phr.v. BrE* = **stare down**

**starfish** [ˈstɑːfɪʃ] *n. zool.* (*pl.* **starfish**) марскáя зóрка

**stargazer** [ˈstɑːgeɪzə] *n. infml* астрóлаг; астранóм; зорканазірáльнік

**stark¹** [stɑːk] *adj.* **1.** пусты́, гóлы; панýры; сурóвы; *The hills stood stark against the sky.* Панурыя горы вымалёўваліся на фоне неба. **2.** пóўны, абсалю́тны; **in stark contrast** у пóўным кантрáсце; **stark discipline** жóрсткая дысцыплíна

**stark**[2] [stɑːk] *adv.* зусі́м, ца́лкам; **stark naked** зусі́м го́лы

**starkers** [ˈstɑːkəz] *adj. BrE, infml* го́лы, у чым ма́ці нарадзі́ла

**starkly** [ˈstɑːkli] *adv.* **1.** рэ́зка, рашу́ча, кру́та **2.** я́ўна, пра́ма; *The black rocks stood out starkly against the sky.* Чорныя скалы рэзка вылучаліся на фоне неба.

**starless** [ˈstɑːləs] *adj.* бяззо́рны; **a starless night** бяззо́рная ноч

**starlet** [ˈstɑːlət] *n.* бу́дучая зо́рка (*пра маладую актрысу*)

**starlight** [ˈstɑːlaɪt] *n.* святло́ зо́рак; *He walked home by starlight.* Ён ішоў дамоў, а над галавою – зоркі.

**starling** [ˈstɑːlɪŋ] *n. zool.* шпак

**starry** [ˈstɑːri] *adj.* зо́рны; усе́яны зо́ркамі; **starry eyes** прамяні́стыя, я́сныя во́чы

**Stars and Stripes** [ˌstɑːzəndˈstraɪps] *n.* **the Stars and Stripes** нацыяна́льны сцяг ЗША

**start**[1] [stɑːt] *n.* **1.** пача́так; **at the start** пачатко́ва, на пача́тку; **from start to finish** з пача́тку да канца́; **make a fresh start** пача́ць усё на́нава **2.** старт, ад'е́зд, адлёт (*самалёта*); **make an early start** ра́на адпра́віцца **3.** уздры́гванне, штуршо́к; **give smb. a start** напало́хаць каго́-н. ♦ **by/in fits and starts** час ад ча́су, ча́сам, уры́ўкамі

**start**[2] [stɑːt] *v.* **1.** пачына́ць; пачына́цца; **start up a swimming club** адкрыва́ць клуб для заня́ткаў па пла́ванні **2.** прыво́дзіць у рух; **start a machine** заво́дзіць мато́р; **start a quarrel** выкліка́ць сва́рку; **start (on) a bottle** адкаркава́ць буте́льку **3.** ру́хацца з ме́сца, адпраўля́цца **4.** уздры́гваць; здры́гвацца ♦ **to start with** перш-на́перш, пачына́ючы з

**start back** [ˌstɑːtˈbæk] *phr.v.* адско́кваць наза́д; *He started back in fear.* Ён ад страху адскочыў назад.

**start in** [ˌstɑːtˈɪn] *phr.v.* **(on) 1.** бра́цца (*за якую-н. справу*); **start in on homework** бра́цца за ўро́кі **2.** крытыкава́ць, ла́яць

**start off** [ˌstɑːtˈɒf] *phr.v. infml* **1. (with)** пачына́ць гавары́ць; пачына́цца; *The dictionary starts off with the letter A.* Слоўнік пачынаецца з літары А. **2. (on)** прымуша́ць гавары́ць не сціха́ючы, «заво́дзіць» каго́-н.

**start out** [ˌstɑːtˈaʊt] *phr.v.* **1.** выпраўля́цца ў даро́гу **2.** збіра́цца зрабі́ць што-н.; *He started out to write a book.* Ён пачаў пісаць кнігу.

**start up** [ˌstɑːtˈʌp] *phr.v.* **1.** узніка́ць (*нечакана*), з'яўля́цца **2.** ху́тка расці́; *New houses are starting up in our district.* У нашым раёне хутка вырастаюць новыя дамы. **3.** пачына́ць; **start up a conversation** распача́ць размо́ву

**starter** [ˈstɑːtə] *n.* **1.** *sport* ста́ртар; удзе́льнік (*спаборніцтва*) **2.** дыспе́тчар; памо́чнік рэжысёра **3.** *tech.* пускавы́ прыбо́р, ста́ртар **4.** пе́ршая стра́ва; *What would you like as a starter?* Што б ты хацела на першае? ♦ **for starters** *infml* перш-на́перш, для пача́тку

**starter home** [ˈstɑːtəˌhəʊm] *n.* першапачатко́вае жыллё для маладо́й сям'і

**starting point** [ˈstɑːtɪŋˌpɔɪnt] *n.* **(for)** зыхо́дны пункт; *We'll take this as the starting point for our discussion.* Мы зробім гэта зыходным пунктам нашай дыскусіі.

**starting post** [ˈstɑːtɪŋˌpəʊst] *n. sport* ста́ртавая ме́тка

**starting price** [ˈstɑːtɪŋˌpraɪs] *n.* зыхо́дная цана́ (*на аўкцыёне*); ста́ртавая цана́ (*на скачках*)

**startle**[1] [ˈstɑːtl] *n.* спало́х, перапу́д, пяро́палах

**startle**[2] [ˈstɑːtl] *v.* пужа́ць, пало́хаць; *He had a startled look on his face.* У яго быў перапалоханы выгляд.

**startling** [ˈstɑːtlɪŋ] *adj.* надзвыча́йны, дзі́ўны, нечака́ны, ашаламля́льны; **startling results** надзвыча́йныя вы́нікі; **startling news** ашаламля́льная навіна́

**starvation** [stɑːˈveɪʃn] *n.* го́лад, галада́нне; **vitamin starvation** недахо́п вітамі́наў; **a starvation diet** гало́дная дые́та; **starvation wages** жабра́цкая зарпла́та

**starve** [stɑːv] *v.* **1.** галада́ць, цярпе́ць го́лад; паміра́ць з го́ладу; **starve to death** паміра́ць гало́днай сме́рцю **2.** мары́ць го́ладам; мець недахо́п (*чаго-н.*) **3.** *infml* (**for**) пра́гнуць, жада́ць, паміра́ць ад жада́ння; *The child is starving for affection.* Дзіцяці не хапае пяшчоты. **4.** *infml* прагалада́цца; **starve smb. into smth. /doing smth.** прымуша́ць каго́-н. зрабі́ць што-н., замары́ўшы го́ладам; *What's for dinner? I'm starving.* Што на абед? Я згаладаўся. ♦ **be starved of sleep** ве́льмі хаце́ць спаць

**starve down** [ˌstɑːvˈdaʊn] *phr.v.* го́ладам змусі́ць зда́цца

**starve out** [ˌstɑːvˈaʊt] *phr.v.* = **starve down**

**stash**[1] [stæʃ] *n. infml* **1.** патайны́ запа́с; **a stash of narcotics** схава́ныя нарко́тыкі **2.** тайні́к, патайні́к

**stash**[2] [stæʃ] *v. infml* хава́ць, прыхо́ўваць

**state**[1] [steɪt] *n.* **1.** стан, стано́вішча; **a state of depression** стан дэпрэ́сіі; **a state of mind** настро́й; **a state of the facts** факты́чны стан спра́вы; **a state of health** стан здаро́ўя; **get into a state** *infml* расхвалява́цца **2.** по́мпа, пара́днасць; **state apartments** пара́дныя пакóі; **a state call** *infml* афіцы́йны візі́т; **the state coach** каралёўская пара́дная карэ́та; **a state**

**occasion** урачы́сты вы́падак; **of state** урачы́сты ♦ **lie in state** ляжа́ць на по́куці, быць вы́стаўленым для развіта́ння (*пра нябожчыка*); **live in great state** жыць раско́шна

**state**[2] [steɪt] *n.* **1.** дзяржа́ва; **a federal state** федэра́льная дзяржа́ва; **an aggressor state** дзяржа́ва-агрэ́сар; **the State Department** дзяржа́ўны дэпарта́мент, міністэ́рства заме́жных спраў (*ЗША*) **2.** дзяржа́ўны апара́т; дзяржа́ўная ўла́да; **Church and State** царква́ і дзяржа́ва **3.** штат; **the State of Texas** штат Тэха́с; **the States** *infml* Шта́ты (*ЗША*)

**state**[3] [steɪt] *adj.* **1.** дзяржа́ўны; **state service** дзяржа́ўная слу́жба; **a state boundary** дзяржа́ўная мяжа́; **a state treaty** дзяржа́ўная дамо́ва; **a state prisoner** паліты́чны зняво́лены **2.** які́ нале́жыць шта́ту; **a State legislature** заканада́ўчы о́рган шта́та; **a State prison** турма́ шта́та (*ЗША*); **a State flower/bird/tree** кве́тка/пту́шка/дрэ́ва як эмбле́ма яко́га-н. шта́та *(ЗША)*

**state**[4] [steɪt] *v.* **1.** заяўля́ць, фармулява́ць; **state one's views** выка́зваць свой по́гляд; **state an account** дава́ць справазда́чу **2.** канстатава́ць, сцвярджа́ць **3.** дакла́дна вызнача́ць; устана́ўліваць; **at stated intervals** праз вы́значаныя праме́жкі ча́су; **work at hours stated** працава́ць у прызна́чаны час; **a stated salary** цвёрды акла́д

**statehood** [ˈsteɪthʊd] *n. fml* ста́тус дзяржа́вы, дзяржа́ўнасць; **independent statehood** дзяржа́ўная незале́жнасць; **be granted statehood** надава́ць ста́тус дзяржа́ўнасці

**stateless** [ˈsteɪtləs] *adj.* **1.** пазба́ўлены дзяржа́ўнасці **2.** які́ не ма́е грамадзя́нства; беспадда́ны; **a stateless person** *law* асо́ба без грамадзя́нства, апатры́д, апалі́д

**stately** [ˈsteɪtli] *adj.* **1.** вялі́касны, ве́лічны; пы́шны, узнёслы **2.** го́рды, ганары́сты; **with stately grace** ве́лічна

**stately home** [ˌsteɪtliˈhəʊm] *n. BrE* старажы́тны дом або́ за́мак паме́шчыка, які́ ўяўля́е гістары́чны інтарэ́с

**statement** [ˈsteɪtmənt] *n.* **1.** зая́ва, сцвярджэ́нне, дэклара́цыя, канстата́цыя; **a formal statement** афіцы́йная зая́ва; **an inaugural statement** усту́пная дэклара́цыя; **make a statement** рабі́ць зая́ву **2.** вы́піска раху́нку (*у банку*) **3.** *fml* выка́званне; *Clearness of statement is more important than beauty of language.* Яснасць выказвання важнейшая за прыгожыя словы.

**state of affairs** [ˌsteɪtəvəˈfeəs] *n.* стан спраў

**state of mind** [ˈsteɪtəvˌmaɪnd] *n.* настро́й, псіхалагі́чны стан

**state of the art** [ˌsteɪtəvðiˈɑːt] *adj.* дася́гнуты, рэа́льны; укаранёны; **state of the art commercial computers** камп'ю́тары, які́я выпуска́юцца ў прамысло́вым машта́бе

**stateroom** [ˈsteɪtrʊm] *n.* **1.** пара́дная за́ла **2.** асо́бная каю́та (*на караблі*)

**state's evidence** [ˌsteɪtsˈevɪdəns] *n. law* све́дка абвінава́чвання

**statesman** [ˈsteɪtsmən] *n.* (*pl.* **-men**) дзяржа́ўны дзе́яч, палі́тык

**statesmanship** [ˈsteɪtsmənʃɪp] *n.* майстэ́рства кірава́ць дзяржа́вай

**stateswoman** [ˈsteɪtswʊmən] *n.* (*pl.* **-women**) дзяржа́ўная, паліты́чная дзяя́чка

**statewide** [ˈsteɪtwaɪd] *adj.* у машта́бе шта́та (*ЗША*)

**static**[1] [ˈstætɪk] *n.* атмасфе́рныя перашко́ды (*пра радыё*)

**static**[2] [ˈstætɪk] *adj.* нерухо́мы, нязме́нны; стацыяна́рны, статы́чны; **a static tone** *ling.* ро́ўны тон; **a static stress** *ling.* статы́чны на́ціск

**statics** [ˈstætɪks] *n.* **1.** ста́тыка; **statics of fluids** гідраста́тыка **2.** атмасфе́рныя перашко́ды (*пра радыё*)

**station**[1] [ˈsteɪʃn] *n.* **1.** ста́нцыя, цэнтр, пункт; **a life-boat station** выратава́льная ста́нцыя; **a filling station** бензакало́нка; **a dressing station** перавя́зачны пункт; **a central station** электраста́нцыя; *AmE* пашто́вае аддзяле́нне **2.** вакза́л, чыгу́начная ста́нцыя **3.** *mil.* ба́за **4.** прыпы́нак (*на дарозе*); *Get out at the next station.* Выходзьце на наступным прыпынку. **5.** *fml* грама́дскае стано́вішча, ста́тус; **a woman of high station** высокапаста́ўленая да́ма **6.** *AustralE* па́ша для аве́чак

**station**[2] [ˈsteɪʃn] *v.* накіро́ўваць на ме́сца пра́цы, размяшча́ць, вызнача́ць пазі́цыю (*для войска*); **station oneself** размяшча́цца; *Their regiment was stationed in Cyprus.* Іх полк стаяў на Кіпры.

**station agent** [ˈsteɪʃnˌeɪdʒənt] *n. AmE* = **stationmaster**

**stationary** [ˈsteɪʃənri] *adj.* нерухо́мы; **remain stationary** застава́цца нерухо́мым **2.** нязме́нны, стацыяна́рны, стабі́льны; **a stationary temperature** усто́йлівая тэмперату́ра

**stationer** [ˈsteɪʃənə] *n.* гандля́р канцыля́рскімі тава́рамі; **a stationer's** магазі́н канцыля́рскіх тава́раў

**stationery** [ˈsteɪʃənri] *n.* канцыля́рскія тава́ры; **stationery expenses** канцыля́рскія расхо́ды; **a box of stationery** пашто́вы набо́р

**stationmaster** [ˈsteɪʃnˌmɑːstə] *n. BrE* начáльнік вакзáла, стáнцыі

**station wagon** [ˈsteɪʃnˌwæɡən] *n. AmE* = **estate car**

**statistical** [stəˈtɪstɪkəl] *adj.* статысты́чны; **statistical evidence** статысты́чны дóказ

**statistician** [ˌstætɪˈstɪʃn] *n.* статы́ст

**statistics** [stəˈtɪstɪks] *n. pl.* статы́стыка; **population statistics** дэмаграфíчная статы́стыка

**statuary** [ˈstætʃuəri] *n. fml* збор скульптýр, скульптýрная грýпа; **fine ancient pieces of statuary** цудóўныя ўзóры анты́чнай скульптýры

**statue** [ˈstætʃuː, ˈstætjuː] *n.* стáтуя; **a statue in marble** стáтуя з мáрмуру; **the Statue of Liberty** Стáтуя Свабóды (*ЗША*); **cast a statue** высякáць стáтую; **erect a statue** узвóдзіць стáтую

**statuesque** [ˌstætʃuˈesk] *adj. fml* вéлічны, манументáльны; **statuesque beauty** класíчная прыгажóсць

**statuette** [ˌstætʃuˈet] *n.* статуэ́тка

**stature** [ˈstætʃə] *n.* **1.** *fml* гóднасць, я́касць; значэ́нне; аўтарытэ́т **2.** рост, вышыня́; **of short stature** нíзкага рóсту; **a man of remarkable moral stature** чалавéк высóкіх марáльных я́касцей

**status** [ˈsteɪtəs] *n.* стáтус, грамáдскае станóвішча; **a rise in status** прасóўванне па грамáдскай лéсвіцы; **a status seeker** прáгны да слáвы чалавéк, славалю́б

**status quo** [ˌsteɪtəsˈkwəʊ] *n. лацін.* стáтус-кво, існýючае станóвішча

**statute** [ˈstætʃuːt] *n.* **1.** статýт, заканадáўчы акт; дэкрэ́т; **statutes at large** збор закóнаў; **a statute of limitations** закóн аб тэ́рмінах дáўнасці **2.** устáў; **the statute of a school** шкóльны ўстаў

**statute book** [ˈstætʃuːtˌbʊk] *n.* збор закóнаў

**statute law** [ˈstætʃuːtˌlɔː] *n.* статýтнае прáва, пíсаны закóн

**statutory** [ˈstætʃəri] *adj.* устанóўлены закóнам; **statutory rights** правы́, устанóўленыя закóнам; **statutory offense** злачы́нства, за якóе прадуглéджана кáра

**staunch**[1] [stɔːntʃ] *adj.* вéрны, стóйкі, ладя́льны; **a staunch Christian** прыхíльнік хрысція́нства; **a staunch belief** непахíсная вéра

**staunch**[2] [stɔːntʃ] *v. med.* спыня́ць (*крывацячэнне*); **staunch a wound** перавя́зваць рáну

**stave**[1] [steɪv] *n.* **1.** дóўгі, мóцны кій **2.** *BrE, mus.* нóтная лінéйка

**stave**[2] [steɪv] *v.* **(staved** *or* **stove)** прабівáць, разбівáць; **stave to splinters** разбíць ушчэ́нт

**stave in** [ˌsteɪvˈɪn] *phr.v.* рабíць прабóіну (*у лодцы*)

**stave off** [ˌsteɪvˈɒf] *phr.v.* адкладáць, адця́гваць, адвóдзіць (*пагрозу, бяду і да т.п.*); **stave off old age** адцягнýць наступлéнне стáрасці; **stave off starvation** прадухілíць галóдную смерць

**stay**[1] [steɪ] *n.* **1.** знахóджанне; **a week's stay** тыднёвае знахóджанне **2.** адтэрмінóўка, прыпынéнне; **a stay of execution** спынéнне выканáння рашэ́ння

**stay**[2] [steɪ] *v.* **1.** заставáцца; **stay (at) home** заставáцца дóма; **stay awake** не спаць; **stay to dinner** заставáцца на абéд; **stay in bed** ляжáць у лóжку; хварэ́ць **2.** спыня́цца, жыць часóва, гасцявáць; **stay at/in a hotel** спынíцца ў гатэ́лі; **stay with friends** гасцявáць у сябрóў; **stay overnight** пераначавáць **3.** *fml* стры́мліваць, спыня́ць; **stay the rise of prices** спыня́ць рост цэ́н; **stay bloodshed** спыня́ць крывацёк; спынíць кровапралíцце; **stay the spread of a disease** затры́мліваць распаўсю́джанне хварóбы; **stay the course** не адставáць у гóнках; **stay put** *infml* заставáцца на мéсцы, не рýхацца ♦ **stay one's hand** стры́мліваца ад дзéянняў

**stay away** [ˌsteɪəˈweɪ] *phr.v.* **1.** адсýтнічаць, не прыхóдзіць; **stay away from home overnight** начавáць не дóма **2.** трымáцца вóддаль

**stay behind** [ˌsteɪbɪˈhaɪnd] *phr.v.* **1.** адставáць (*ад кампаніі*) **2.** заставáцца (*пасля заканчэння лекцыі, урока і да т.п.*)

**stay in** [ˌsteɪˈɪn] *phr.v.* **1.** не выхóдзіць, заставáцца дóма **2.** заставáцца, затры́мліваца

**stay on** [ˌsteɪˈɒn] *phr.v.* заставáцца дзе-н., затры́мліваца

**stay out** [ˌsteɪˈaʊt] *phr.v.* **1.** не вяртáцца дадóму, адсýтнічаць **2.** заставáцца пад адкры́тым нéбам

**stay up** [ˌsteɪˈʌp] *phr.v.* **1.** не клáсціся спаць **2.** трымáцца на плавý, не танýць

**stay-at-home** [ˈsteɪətˌhəʊm] *n. infml* дамасéд; дамасéдка; *He is not the stay-at-home sort.* Ён не з тых, хто любіць сядзець дома.

**stayer** [ˈsteɪə] *n. BrE* вынóслівы чалавéк; вынóслівая жывёліна

**stay-in** [ˈsteɪɪn] *n.* сядзя́чая забастóўка

**staying power** [ˈsteɪɪŋˌpaʊə] *n.* вынóслівасць, вы́трымка, стóйкасць

**STD** [ˌestiːˈdiː] *n. med.* (*скар. ад* **sexually transmitted disease**) хварóба, якáя перадаéцца палавы́м шля́хам

**St David's Day** [sntˈdeɪvɪdzˌdeɪ] *n.* Дзень Святóга Давíда (*нацыянальнае свята Валіі, 1 сакавіка*)

**stead** [sted] *n.* : ♦ **in smb.'s/smth.'s stead** *fml* замéст кагó-н./чагó-н.; *I'll send my assistant in my stead.* Я вышлю майго памочніка замест сябе ; **stand smb. in good stead** быць карыснымкаму́-н.

**steadfast** [ˈstedfɑːst] *adj.* **(in, to)** *fml, approv.* стóйкі, непахíсны, цвёрды, пастая́нны; **be steadfast to one's principles** цвёрда прытры́мліваццасваíх пры́нцыпаў; **steadfast conviction** непахíснае перакана́нне

**steadily** [ˈstedɪli] *adv.* рóўна, пастая́нна; **work steadily** працава́ць без перабóяў

**steady**[1] [ˈstedi] *adj.* **1.** цвёрды, устóйлівы, трыва́лы; **steady nerves** мóцныя нéрвы; **make a chair steady** умацава́ць стул; *He is not steady on his legs.* Ён не трымаецца на нагах; *Hold the ladder steady.* Трымай драбіну, каб не гайдалася. **2.** пастая́нны, рóўны, стабільны, раўнамéрны; **a steady speed** пастая́нная ху́ткасць; **a steady wind** рóўны вéцер; *The prices are steady now*. Цэны цяпер устойлівыя. **3.** непару́шны, непахíсны, цвёрды, вéрны; **steady faith** цвёрдая вéра; **a steady hand** вéрная рука́; **be steady in one's purpose** няўхíльна ісцí да сваёй мэ́ты ♦ **(as) steady as a rock** цвёрды як скала́

**steady**[2] [ˈstedi] *v.* прыхóдзіць да раўнава́гі; рабíцца ўстóйлівым, нязмéнным; супакóйвацца; **steady nerves** супакóйваць нéрвы

**steady**[3] [ˈstedi] *adv.* рóўна, пастая́нна; **hold steady** трыма́цца рóўна ♦ **go steady (with smb.)** *infml, dated* (пастая́нна) сябрава́ць (з кім-н.)

**steak** [steɪk] *n.* кава́лак мя́са абó ры́бы (*для смажання*); біфштэ́кс; **fillet steak** біфштэ́кс з вы́разкі; **rump steak** рамштэ́кс, сéчаная катлéта

**steakhouse** [ˈsteɪkhaʊs] *n.* біфштэ́ксная; рэстара́н, які́ спецыялізу́ецца на мясны́х стра́вах

**steal**[1] [stiːl] *n. infml* вы́гадная паку́пка, ама́ль дарэ́мшчына

**steal**[2] [stiːl] *v.* **(stole, stolen) 1.** кра́сці, выкрада́ць; *I had my watch stolen.* У мяне скралі гадзіннік. **2.** рабíць што-н. упóтай; дамага́цца чагó-н. хíтрасцю **3.** пракрада́цца; падкрада́цца; *A tear stole down her cheek.* Па яе шчацэ ціха скацілася сляза. ♦ **steal a glance at smb.** крадкóм гля́нуць на кагó-н.; **steal a kiss** сарва́ць пацалу́нак; **steal a march (on smb.)** падману́ць (чыю-н.) пíльнасць; **steal a ride** éхаць «за́йцам»/без білéта; **steal the scene/show** зацьмíць усíх; **steal smb.'s thunder** перахапíць па́льму першынства́

**steal in** [ˌstiːlˈɪn] *phr.v.* прабра́цца крадкóм

**stealth** [stelθ] *n.* хíтрасць; **by stealth** крадкóм, упóтай, упóтайкі, без вéдама

**stealthy** [ˈstelθi] *adj.* патаéмны, та́йны, скры́ты; **stealthy footsteps** крóкі крадкóм; **stealthy whisper(s)** асцярóжны шэпт

**steam**[1] [stiːm] *n.* **1.** (вадзяна́я) па́ра **2.** сíла, энéргія ♦ **at full steam** на ўсю моц; **let off steam** *infml* вы́пусціць па́ру; даць вóлю сваíм пачу́ццям; **get up steam** *infml* набра́цца рашу́часці; прыба́віць крóку; **under one's own steam** самастóйна; **run out of steam** *infml* стамíцца, быць знясíленым; змары́цца, стра́ціць імпэ́т

**steam**[2] [stiːm] *v.* **1.** выпуска́ць па́ру, дымíцца **2.** ру́хацца (*пры дапамозе пары*) **3.** гатава́ць éжу над па́раю

**steam up** [ˌstiːmˈʌp] *phr.v.* пакры́цца па́раю, запацéць ♦ **get steamed up (about/over smth.)** *BrE, infml* расхваля́вацца (аб чым-н.)

**steam bath** [ˈstiːmbɑːθ] *n.* ла́зня, пары́лка

**steamboat** [ˈstiːmbəʊt] *n.* парахóд (*невялікі*)

**steamboiler** [ˈstiːmˌbɔɪlə] *n.* паравы́ кацёл

**steam engine** [ˈstiːmˌendʒɪn] *n.* парава́я машы́на

**steamer** [ˈstiːmə] *n.* **1.** парахóд **2.** парава́рка, парава́я кастру́ля

**steam roller** [ˈstiːmˌrəʊlə] *n.* паравы́ катóк

**steamship** [ˈstiːmʃɪp] *n.* парахóд

**steam train** [ˈstiːmtreɪn] *n.* паравóз

**steamy** [ˈstiːmi] *adj.* **1.** пакры́ты па́рай, парападóбны; **a steamy window** запацéлае акнó **2.** *infml* эраты́чны; **steamy love scenes** эраты́чныя сцэ́ны

**steed** [stiːd] *lit.* конь, баявы́ конь

**steel**[1] [stiːl] *n.* **1.** сталь **2.** *lit.* шпа́га, меч ♦ **a grip of steel** жалéзная рука́; **nerves of steel** жалéзныя нéрвы

**steel**[2] [stiːl] *v.* гартава́ць; **steel one's heart** станавíцца бязлíтасным; станавíцца му́жным; **steel onself to do smth.** збіра́цца з сíламі зрабíць што-н.

**steel wool** [ˈstiːlwʊl] *n.* металíчная мача́лка для чы́сткі пóсуду

**steelworks** [ˈstiːlwɜːks] *n.* сталеліцéйны завóд, сталява́рня

**steely** [ˈstiːli] *adj.* мóцны як сталь; **a steely glance** суро́вы, халóдны пóзірк

**steelyard** [ˈstiːljɑːd] *n.* бязмéн

**steep**[1] [stiːp] *n.* стрóма

**steep**[2] [stiːp] *adj.* **1.** стрóмкі, круты́, абры́вісты **2.** *infml* невераго́дны, празмéрны (*пра цэны, патрабаванні*); *That's a bit steep!* Гэта ўжо занадта!

**steep**[3] [stiːp] *v.* **1.** мачы́ць, вымóчваць; настóйваць, зава́рваць; *Steep the vegetables for two*

*hours in water.* Пакладзіце гародніну на дзве гадзіны ў ваду. **2.** *fml* паглыбля́цца, ца́лкам аддава́цца (*чаму-н.*); *He steeped himself in German*. Ён паглыбіўся ў вывучэнне нямецкай мовы; *She steeped in prejudice.* Яна загразла ў забабонах.

**steepen** [ˈstiːpən] *v.* **1.** рабі́ць або́ станаві́цца больш круты́м **2.** узраста́ць, павялі́чвацца

**steeple** [ˈstiːpl] *n.* шпіль; спіча́стая ве́жа

**steeplechase** [ˈstiːpltʃeɪs] *n. sport* скачкі́ з перашко́дамі

**steeplejack** [ˈstiːpldʒæk] *n.* верхала́з

**steer**[1] [stɪə] *n.* кастры́раваны бычо́к, малады́ вол

**steer**[2] [stɪə] *v.* накіро́ўваць, стырнава́ць, кірава́ць (*аўтамабілем, лодкай і да т.п.*); **steer a country to prosperity** ве́сці краі́ну да ро́сквіту ♦ **steer clear of smth.** пазбяга́ць чаго́-н.

**steering committee** [ˈstɪərɪŋkəˌmɪtiː] *n.* кіру́ючы камітэ́т, камі́сія па выпрацо́ўцы пара́дку дня; назіра́льная камі́сія

**steering wheel** [ˈstɪərɪŋˌwiːl] *n.* штурва́л, рулявое ко́ла, стырно́

**steersman** [ˈstɪəzmən] *n.* (*pl* **-men**) рулявы́, шту́рман, стырнавы́

**St George's Day** [sntˈdʒɔːdʒɪzˌdeɪ] *n.* Дзень Свято́га Гео́ргія (*нацыянальнае свята Англіі, 23 сакавіка*)

**stellar** [ˈstelə] *adj.* **1.** *fml* зо́ркавы; **stellar light** святло́ зо́рак **2.** *infml* выбітны, знакамі́ты; **a stellar role** ро́ля для зо́ркі (*у тэатры, кіно*)

**stem**[1] [stem] *n.* **1.** ствол; каме́ль; сцябло́ **2.** стры́жань; **the stem of a feather** стры́жань пяра́ **3.** *bot.* пладано́жка, чарано́к; гро́нка; **the stem of a plum** чарано́к слі́вы; **a stem of bananas** гро́нка бана́наў **4.** *fml* род, пле́мя; **descend from an old stem** пахо́дзіць са старажы́тнага ро́ду **5.** но́жка, падста́ўка; **the stem of a glass** но́жка кілі́шка **6.** *ling.* асно́ва (*слова*) ♦ **from stem to stern** ад но́са да кармы́ (*пра карабель*)

**stem**[2] [stem] *v.* **(from/out of)** пахо́дзіць, пачына́цца, узніка́ць; *The theory stems from an ancient tradition.* Гэтая тэорыя ідзе ад старажытнай традыцыі.

**stem**[3] [stem] *v.* **1.** стры́мліваць; **stem the flow of blood** спыня́ць кровацячэ́нне **2.** плыць су́праць цячэ́ння, ісці́ су́праць ве́тру; **stem the tide of public opinion** дзе́йнічаць уразрэ́з з грама́дскай ду́мкай

**stem off** [ˌstemˈɒf] *phr.v.* **: stem off a disaster** адве́сці бяду́

**stench** [stentʃ] *n.* смуро́д

**stencil** [ˈstensl] *n.* трафарэ́т, шабло́н

**steno** [ˈstenəʊ] *n. AmE, infml* (*pl.* **-os**) (*скар. ад* **stenographer, stenography**) стэнагра́фія; стэнаграфіст; стэнаграфі́стка

**stenographer** [stəˈnɒgrəfə] *n.* стэнаграфі́ст; стэнаграфі́стка

**stenography** [stəˈnɒgrəfi] *n.* стэнагра́фія

**stentorian** [stenˈtɔːriən] *adj. fml* грамавы́, гу́чны (*пра голас*)

**step**[1] [step] *n.* **1.** крок; **direct/turn one's steps** накіро́ўвацца (*куды-н.*); **make a false step** спатыка́цца; **step by step** крок за кро́кам, паступо́ва; **step for step** нага́ ў нагу́; **within a step of there** адзі́н крок адту́ль; *It's a long step to the river.* Да рэчкі яшчэ далёка. **2.** пахо́дка, хада́; **a light step** лёгкая хада́; **watch your step!** *infml* будзь асцяро́жным!; *We must hasten our steps.* Мы павінны ісці крыху хутчэй. **3.** прысту́пка, падно́жка (*экіпажа*), перакла́дзіна (*драбіны*); **a flight of steps** ле́свічны марш **4.** ход, рух напе́рад; **the first steps towards peace** пе́ршыя кро́кі да мі́ру; *What's the next step?* Што будзем рабіць далей? **5.** ме́ра, дзе́янне, крок, за́хады; **take steps** рабі́ць за́хады **6.** па, такт (*у танцы*) ♦ **in step/out of step** у нагу́/не ў нагу́

**step**[2] [step] *v.* ступа́ць, кро́чыць, ісці́; *Step this way, please*. Калі ласка, сюды.

**step aside** [ˌstepəˈsaɪd] *phr.v.* адыхо́дзіць, саступа́ць, адступа́ць убо́к

**step down** [ˌstepˈdaʊn] *phr.v.* **1.** сысці́ на дол (уні́з) **2.** падаць у адста́ўку

**step in** [ˌstepˈɪn] *phr.v.* **1.** увахо́дзіць **2.** уме́швацца

**step off** [ˌstepˈɒf] *phr.v.* сысці́ (*з дарогі, ходніка і да т.п.*)

**step up** [ˌstepˈʌp] *phr.v.* павыша́ць, павялі́чваць, узмацня́ць; **step up production** павялі́чваць вытво́рчасць

**stepbrother** [ˈstepˌbrʌðə] *n.* зво́дны брат

**stepdaughter** [ˈstepˌdɔːtə] *n.* па́дчарыца, па́дчарка

**stepfather** [ˈstepˌfɑːðə] *n.* айчы́м

**stepmother** [ˈstepˌmʌðə] *n.* ма́чаха, ма́чыха

**steppe** [step] *n.* стэп

**stepping stone** [ˈstepɪŋˌstəʊn] *n.* **1.** сро́дак для дасягне́ння мэ́ты **2.** ка́мень для перахо́ду (*праз ручай, рэчку і да т.п.*)

**stepsister** [ˈstepˌsɪstə] *n.* зво́дная сястра́

**stepson** [ˈstepsʌn] *n.* па́сынак

**stereo** [ˈsteriəʊ] *n.* (*pl.* **-os**) **1.** стэрэафані́я **2.** стэрэафані́чная гукаўзнаўля́льная сістэ́ма

**stereophonic** [ˌsteriəʊˈfɒnɪk] *adj.* стэрэафані́чны; **a stereophonic system** стэрэасістэ́ма

**stereoscope** [ˈsteriəskəʊp] *n.* стэрэаско́п

**stereoscopic** [ˌsteriəˈskɒpɪk] *adj.* стэрэаскапі́чны
**stereotype** [ˈsteriəʊtaɪp] *n.* **1.** стэрэаты́п **2.** шабло́н, стандáрт
**stereotyped** [ˈsteriəʊtaɪpt] *adj.* шабло́нны, трафарэ́тны; **stereotyped greetings** традыцы́йныя фо́рмы прывітáння
**sterile** [ˈsteraɪl] *adj.* **1.** бясплóдны; я́лавы; **sterile soils** бясплóдныя зе́млі; я́лавіна **2.** шэ́ры, нецікáвы; **sterile debates** бясплённыя дэбáты **3.** стэры́льны; стэрылізавáны; **sterile bandages** перавя́зачныя матэры́ялы
**sterility** [stəˈrɪləti] *n.* **1.** стэры́льнасць **2.** шэ́расць, адсу́тнасць своеасаблі́васці; **sterility of mind** бе́днасць ро́зуму **3.** бясплóднасць, неўрадлі́васць (*зямлі*)
**sterilize,** *BrE* **-ise** [ˈsterəlaɪz] *v.* **1.** стэрылізавáць; **sterilized milk** стэрылізавáнае малакó **2.** штýчна абясплóджваць
**sterling**[1] [ˈstɜːlɪŋ] *n.* стэ́рлінг; **the pound sterling** фунт стэ́рлінгаў; **the sterling area** стэ́рлінгавая зóна
**sterling**[2] [ˈstɜːlɪŋ] *adj.* **1.** паўнавáжкі, паўнацэ́нны; **sterling silver** чы́стае серабрó **2.** надзе́йны, сумле́нны, прыстóйны; **sterling principles** цвёрдыя пры́нцыпы; **a man of sterling character** непадку́пны чалаве́к
**stern**[1] [stɜːn] *n.* **1.** кармá; **stern on** кармóю ўпе́рад **2.** *infml* зáдняя чáстка (*чаго-н.*), зад
**stern**[2] [stɜːn] *adj.* **1.** стрóгі, сурóвы; **a stern face** панýры твар; **a stern battle** жóрсткая бі́тва **2.** цвёрды, няўмóльны, упáрты, стóйкі; **a stern follower** пераканáны паслядóўнік ♦ **be made of sterner stuff** быць мацне́йшым (*чым іншыя*), мець мóцную вóлю
**sternum** [ˈstɜːnəm] *n. anat.* (*pl.* **sternums** *or* **sterna**) грудзі́на
**steroid** [ˈsterɔɪd] *n. biochem.* стэрóід
**stethoscope** [ˈsteθəskəʊp] *n.* стэтаскóп
**stetson** [ˈstetsn] *n.* шыракапóлы фе́травы капялю́ш; каўбóйскі капялю́ш, стэ́тсан
**stew**[1] [stjuː] *n.* **1.** ту́шанае мя́са; тушóнка; **Irish stew** ту́шаная барáніна з бу́льбай і цыбу́ляй **2.** *infml* непакóй, раздражне́нне; стан гарачкі; *What a stew!* Якая спякота! ♦ **be in a stew** *infml* ≅ сядзе́ць як на цвікáх
**stew**[2] [stjuː] *v.* **1.** тушы́ць (*мяса, рыбу і да т.п.*); тушы́цца ♦ **stew in one's own juice** *infml* вары́цца ў сваі́м сакý; *Let him stew.* Хай як хоча, так і выходзіць са становішча.
**steward**[1] [ˈstjuːəd] *n.* афіцыя́нт; сцю́ард, бортправадні́к (*на самалёце, параходзе*); **Lord High Steward of England** лорд, які́ кіру́е ўрачы́стасцямі на каранáцыі (*у Вялікабрытаніі*)
**stewardess** [ˌstjuːəˈdes, ˈstjuːədes] *n.* **1.** сцюардэ́са, бортправадні́ца (*на самалёце, параходзе*) **2.** пакаёўка (*на судне*)
**stewed** [stjuːd] *adj.* ту́шаны; **stewed fruit** кампóт; **stewed tea** перастая́лая завáрка
**stewpan** [ˈstjuːpæn] *n.* ні́зкая кастру́ля, сатэ́йнік
**stewpot** [ˈstjuːpɒt] *n.* **1.** = **stewpan** **2.** *slang* зубры́ла
**stick**[1] [stɪk] *n.* **1.** калóк, ля́ска, кій; **a hockey stick** клю́шка; *The house went to sticks and staves.* Дом зусім разваліўся; *This boy wants the stick.* Хлопчыку патрэбна лупцоўка. **2.** плі́тка (*шакаладу*); кавáлачак (*мелу*), брыке́цік (*масла*) **3.** прутóк для вязáння **4.** падсве́чнік **5.** *infml* чалаве́к; **a queer stick** дзівáк; **good sticks** дóбрыя лю́дзі ♦ **live in the sticks** *infml* жыць у глушы́; **be in a cleft stick** быць у цяжкавáтым станóвішчы; **the big stick** палі́тыка сі́лы; **get hold of the wrong end of the stick** мець няпрáвільнае ўяўле́нне; **get/take a lot of stick (from smb.)** *infml* атрымáць лупцóўку (ад каго-н.); быць раскрытыкавáным ушчэ́нт
**stick**[2] [stɪk] *v.* **(stuck)** **1.** усáджваць, утыкáць; утыкáцца; *The needle stuck in my finger.* Іголка ўлезла мне ў палец. **2.** **(through)** пракóлваць, праны́зваць, працінáць **3.** прыкле́йваць; прыкле́йвацца; прыліпáць; **stick a stamp on a letter** прыкле́йваць мáрку на канве́рт **4.** *infml* засóўваць, утыкáць; **stick a flower in one's hair** засу́нуць у валасы́ кве́тку **5.** засядáць, завязáць; затры́млівацца; **stick in the middle of a speech** спыня́цца ў сярэ́дзіне прамóвы; **stick in the mind/in the memory** засядáць у пáмяці; *The bus stuck in the mud.* Аўтобус заграз. **6.** не адхіля́цца ад чагó-н., трымáцца чагó-н., быць ве́рным чаму́-н. **7.** стая́ць за кагó-н., быць аддáным каму́-н.; **stick at smth.** упáрта працавáць над чым-н.; *He stuck by us through thick and thin.* Ён быў нашым верным сябрам ва ўсіх выпрабаваннях. ♦ **stick to one's resolve** стая́ць на сваі́м; **stick to one's post** заставáцца на сваі́м пасту́; **stick to one's word/promise** трымáць слóва/абяцáнне; **stick together** *infml* трымáцца рáзам; **stick one's neck out** *infml* рызыкавáць, падстаўля́ць шы́ю; **stick to one's colours/guns** *infml* стая́ць на сваі́м, да канцá прытры́млівацца сваі́х пераканáнняў; **stick in one's gizzard/stomach/craw** *infml* замінáць, надаку́чваць, стая́ць пóперак гóрла
**stick around** [ˌstɪkəˈraʊnd] *phr.v.* *infml* сланя́цца, снóўдацца паблі́зу
**stick out** [ˌstɪkˈaʊt] *phr.v.* высóўваць; высóўвацца; тырчáць, вытыркáцца; вылучáцца

**stick up** [ˌstɪkˈʌp] *phr.v.* **1.** тырча́ць, высо́ўвацца; **stick smth. up** *infml* рабі́ць налёт, рабава́ць; **stick up a bank** агра́біць банк **2. (for)** выступа́ць за (*каго-н.*), адсто́йваць (*каго-н.*); **stick up for oneself** пастая́ць за сябе́

**sticker** [ˈstɪkə] *n.* **1.** сты́кер, ліпу́чая накле́йка, нале́пка; цэ́тлік; афі́ша; **a price sticker** цэ́ннік **2.** чалаве́к з пастая́ннымі звы́чкамі і схільнасцямі

**sticking plaster** [ˈstɪkɪŋˌplɑːstə] *n.* лейкапла́стыр

**sticking point** [ˈstɪkɪŋˌpɔɪnt] *n.* прычы́на тупіка́, прычы́на бязвы́хаднага стано́вішча (*пра дыскусію, перамовы*)

**stick-in-the-mud** [ˈstɪkɪnðəˌmʌd] *n. infml, derog.* адста́лы чалаве́к; разя́ва, расця́па

**stickler** [ˈstɪklə] *n.* **(for)** заўзя́ты прыхі́льнік, абаро́нца; *He is a terrible stickler for punctuality.* Пунктуальнасць для яго вышэй за ўсё.

**stick-up** [ˈstɪkʌp] *n. infml* налёт, аграбле́нне, абрабава́нне

**sticky** [ˈstɪki] *adj.* **1.** лі́пкі, ліпу́чы, кле́йкі **2.** *infml* гара́чы і вільго́тны, па́рны (*пра надвор'е*); *It's sticky today.* Сёння парыць як у лазні. **3.** *infml* ця́жкі, непрые́мны; **come to a sticky end** ке́пска ско́нчыць; **a sticky wicket** *BrE, infml* ця́жкае стано́вішча

**sticky tape** [ˈstɪkiteɪp] *n. BrE* лі́пкая ле́нта (*канцылярская*)

**stiff**[1] [stɪf] *adj.* **1.** тугі́, цвёрды, каля́ны; **a stiff collar** му́лкі каўне́р; **stiff cardboard** цвёрды кардо́н **2.** спруцяне́лы, акачане́лы, здранцве́лы, здубяне́лы; *I was stiff with cold/terror.* Я адубеў ад холаду/застыў ад жаху; *I feel stiff around the neck.* Я не магу павярнуць галаву. **3.** густы́, тугі́; накрухма́лены; **stiff dough** круто́е це́ста; *Beat the egg whites until stiff.* Узбівай бялкі ў густую пену. **4.** цвёрды, рашу́чы; **stiff to the back** рашу́чы (*чалавек*) **5.** жо́рсткі, упа́рты; **a stiff fight** лютая барацьба́ **6.** халo҆дны, чапуры́сты; **a stiff smile** вы́мучаная ўсме́шка **7.** мо́цны (*пра алкагольныя напоі*) **8.** ця́жкі; *The book is stiff readind.* Чытаць гэтую кнігу нялёгка. ♦ **as stiff as a poker** чапуры́сты, цырымо́нны; **that's a bit stiff!** гэ́та ўжо́ зана́дта!

**stiff**[2] [stɪf] *adv. infml* да знямо́гі, да сме́рці; **bore smb. stiff** абры́днуць каму́-н. да чо́рцікаў; **scare smb. stiff** напало́хаць каго́-н. да сме́рці

**stiffen** [ˈstɪfn] *v.* **1.** крухма́ліць, рабі́ць тугі́м або́ пру́ткім **2.** тужэ́ць, застава́цца жо́рсткім, цвёрдым **3.** дубе́ць, карчане́ць, кале́ць; **stiffen with cold** карчане́ць ад хо́ладу

**stiffener** [ˈstɪfənə] *n.* **1.** пру́ткая пракла́дка або́ по́дбіўка **2.** сро́дак, які́ ро́біць ткані́ну пру́ткай (*крухмал, апрэтура і да т.п.*)

**stiff-necked** [ˌstɪfˈnekt] *adj.* упа́рты

**stiffness** [ˈstɪfnəs] *n.* **1.** акасцяне́ласць, здранцве́ласць **2.** ненатура́льнасць, шту́чнасць, чапуры́стасць **3.** заўзя́тасць, насто́йлівасць **4.** высо́кія патрабава́нні (*на іспытах*)

**stifle** [ˈstaɪfl] *v.* **1.** душы́ць, заглуша́ць; задыха́цца; **a stifling day** ду́шны дзень; **be stifled by smoke** задыха́цца ад ды́му **2.** стры́млівацъ (*пазяханне, слёзы і да т.п.*); **stifle a revolt** задушы́ць паўста́нне

**stiflingly** [ˈstaɪflɪŋli] *adv.* ду́шна; *It's stiflingly hot today.* Сёння вельмі горача і душна.

**stigma** [ˈstɪgmə] *n.* (*pl.* **stigmata** *or* **stigmas**) кляймо́ га́ньбы; **leave a stigma upon one's family** запля́міць го́нар сям'і́

**stigmatize**, *BrE* **-ise** [ˈstɪgmətaɪz] *v. fml* га́ньбіць, знеслаўля́ць; **stigmatize smb. as a coward** кляймі́ць каго́-н. як баязлі́ўца

**stile** [staɪl] *n.* **1.** прысту́пка для пераходу праз плот **2.** турніке́т ♦ **help a lame dog over a stile** дапамагчы́ сла́баму, дапамагчы́ каму́-н. у бядзе́

**stiletto** [stɪˈletəʊ] *n.* кінжа́л, стыле́т; **a stiletto beard** баро́дка клі́нам; **stiletto heels** *infml* то́нкія абца́сы; «шпі́лькі»

**still**[1] [stɪl] *n.* **1.** *lit.* ціш, цішыня́; **in the still of (the ) night** у начно́й цішы́ **2.** стоп-кадр, фотазды́мак

**still**[2] [stɪl] *adj.* **1.** нерухо́мы, спако́йны; **still rain** дождж без ве́тру; **keep still** не варушы́цца **2.** ці́хі, бясшу́мны, нямы́; **still nights** ці́хія но́чы; **be still** маўча́ць **3.** няпе́ністы; **still lemonade** негазіравáны ліманáд ♦ **still waters run deep** ≅ ці́хая вада́ берагі́ рве

**still**[3] [stɪl] *v. lit.* супако́йваць; супако́йвацца; сціша́ць, уціхамі́рваць; уціхамі́рвацца; **still smb.'s fears** разагна́ць чые́-н. стра́хі; **still pain** супако́йваць боль

**still**[4] [stɪl] *adv.* нерухо́ма, ці́ха, спако́йна; *Time stood still.* Час спыніўся; *His heart beat still.* Яго сэрца ціха білася.

**still**[5] [stɪl] *adv.* **1.** да гэ́тай пары́, дагэ́туль, усё яшчэ́; *He is still at home.* Ён яшчэ дома. **2.** яшчэ́ (*у параўнанні*); *It would be still better if*… Было б яшчэ лепш, калі б…

**still**[6] [stɪl] *conj.* усё ж, адна́к, тым не ме́ней; *Although she felt ill, she still went to work.* Хаця яна і хварэла, але на работу хадзіла.

**stillborn** [ˌstɪlˈbɔːn] *adj.* **1.** мёртванаро́джаны **2.** неажыццявімы; **stillborn hopes** надзе́і, які́м ніко́лі не здзе́йсніцца

**still library** [ˌstɪlˈlaɪbrəri] *n.* фотатэ́ка; архі́ў

**still life** [ˌstɪlˈlaɪf] *n.* нацюрмо́рт

**stillness** [ˈstɪlnəs] *n.* **1.** ціш, цішыня́ **2.** непару́шнасць, спако́й

**stilt** [stɪlt] *n.* хаду́ля; **walk on stilts** хадзі́ць на хаду́лях

**stilted** [ˈstɪltɪd] *adj.* **1.** *derog***.** напы́шлівы, высакамо́ўны; **stilted style** высакаро́дны стыль **2.** прыпадня́ты; **a stilted arch** прыпадня́тая а́рка

**Stilton** [ˈstɪltn] *n.* сты́лтан (*белы сыр з сінімі пражылкамі*)

**stimulant** [ˈstɪmjələnt] *n.* **1.** стымуля́тар, узбуджа́льны сро́дак **2.** сты́мул, пабуджа́льны маты́ў

**stimulate** [ˈstɪmjəleɪt] *v.* **1.** стымулява́ць, абуджа́ць, узбуджа́ць **2.** заахво́чваць, падтры́млiваць (*пахвалой, узнагародай і да т.п.*); **stimulate mentally** стымулява́ць інтэлектуа́льна

**stimulation** [ˌstɪmjəˈleɪʃn] *n.* **1.** стымуля́цыя, узбуджэ́нне **2.** заахво́чванне, падтры́мка (*пахвалой, узнагародай і да т.п.*)

**stimuli** [ˈstɪmjəlaɪ] *n. pl.* → **stimulus**

**stimulus** [ˈstɪmjʊləs] *n.*(*pl.* **stimuli**) **(to/for) 1.** сты́мул, пабуджа́льная прычы́на; **a stimulus to progress** сты́мул прагрэ́су **2.** *physiol.* сты́мул, раздражня́льнік

**sting¹** [stɪŋ] *n.* **1.** джа́ла (*насякомага*) **2.** *bot.* пяку́чы валасо́к **3.** во́стры боль, уку́с (*камара, пчалы і да т.п.*), апёк (*крапівою*) ♦ **a sting in the tail** *infml* са́мае непрые́мнае – у канцы́

**sting²** [stɪŋ] *v.* **(stung) 1.** прычыня́ць во́стры боль, адчува́ць во́стры боль; *The smoke is stinging my eyes.* Дым выядае мне вочы. **2.** джа́ліць, кало́ць, пячы́ (*пра крапіву*) ♦ **nothing stings like the truth** пра́ўда во́чы ко́ле

**stinger** [ˈstɪŋə] *n.* **1.** *AmE* джа́ла **2.** *infml* рэ́зкі ўдар, з’е́длівы адка́з

**stinging nettle** [ˈstɪŋɪŋˌnetl] *n. bot*. пяку́чая крапіва́

**stingy** [ˈstɪndʒi] *adj. infml* скупы́, скна́рлівы; *Don’t be so stingy with sugar.* Не шкадуй цукру.

**stink¹** [stɪŋk] *n. infml* **1.** смуро́д **2.** *infml* сканда́льная сітуа́цыя, бу́ча; **raise a stink** падня́ць сканда́л

**stink²** [stɪŋk] *v.* **(stank, stunk)** *infml* **1. (of)** смярдзе́ць **2.** быць невыно́сна ке́пскім; *This book stinks.* Гэта паршывая кніга. ♦ **the whole business stinks to heaven** уся́ гэ́та спра́ва па́хне дрэ́нным

**stinker** [ˈstɪŋkə] *n.* **1.** *infml* падо́нак, падлю́га; мярзо́тнік; **2.** *infml* дрэнь, барахло́ (*пра фільм, кнігу і да т.п.*) **3.** *AustralE* пе́кла, ве́льмі гара́чы дзень

**stinking** [ˈstɪŋkɪŋ] *adj.* **1.** смярдзю́чы **2.** *infml* агі́дны, пры́кры; **a stinking shame** страшэ́нная га́ньба ♦ *He’s **stinking rich**.* ≅ У яго грошай як гразі.

**stint¹** [stɪnt] *n.* **1.** тэ́рмін слу́жбы **2.** но́рма (*працы*), мяжа́, абмежава́нне; **without stint** *fml* не шкаду́ючы

**stint²** [stɪnt] *v.* **(on)** скупі́цца, шкадава́ць, абыхо́дзіцца малы́м; *Don’t stint on ice cream.* Не скупіся на марожанае.

**stipend** [ˈstaɪpend] *n.* **1.** *fml* акла́д, жа́лаванне **2.** *AmE* стыпе́ндыя

**stipendiary** [staɪˈpendiəri] *n.* пла́тны магістра́т; суддзя́, які́ атры́млівае жа́лаванне (*у адрозненне ад міравога*)

**stipple** [ˈstɪpl] *v.* малява́ць, гравірава́ць пункці́рам або́ штрыха́мі; **stippled ceramics** штрыхава́ная кера́міка

**stipulate** [ˈstɪpjuleɪt] *v. fml* абумо́ўліваць, ста́віць умо́ву; **stipulate for a reward** вы́кленчыць сабе́ ўзнагаро́ду

**stipulation** [ˌstɪpjuˈleɪʃn] *n.* умо́ва, агаво́рка; **under/on the stipulation that …** пры ўмо́ве, што …; **carry/violate out the stipulations of a treaty** выко́нваць/паруша́ць умо́вы дагаво́ра

**stir¹** [stɜː] *n.* **1.** варушэ́нне; шавяле́нне; разме́шванне, мяша́нне; *Give the tea a stir.* Памяшай гарбату. **2.** узбуджэ́нне, перапало́х; мітусня́, сумятня́; **cause a stir** рабі́ць перапу́д

**stir²** [stɜː] *v.* **1.** варушы́ць; варушы́цца; *The wind stirred the leaves.* Вецер варушыў лісце; *Don’t stir!* Не варушыся! **2.** мяша́ць, разме́шваць; **stir one’s tea** паме́шваць гарба́ту **3.** узруша́ць, узру́шваць, хвалява́ць; **stir the blood** хвалява́ць кроў; выклiка́ць энтузія́зм; **stir smb.’s wrath** выклiка́ць чый-н. гнеў

**stir up** [ˌstɜːrˈʌp] *phr.v.* раздзьму́ць (*сварку*), узбужда́ць (*зацікаўленасць*); *He needs stirring up.* Яго трэба разварушыць.

**stirfry** [ˈstɜːfraɪ] *v.* сма́жыць у але́і

**stirring** [ˈstɜːrɪŋ] *adj.* хвалю́ючы, узбуджа́льны; **stirring times** часы́, по́ўныя здарэ́нняў

**stirrup** [ˈstɪrəp] *n.* стрэ́мя

**stirrup cup** [ˈstɪrəpˌkʌp] *n.* **1.** развіта́льны ку́бак **2.** апо́шняя ча́рка, адыхо́дная, аглаблёвая

**stitch¹** [stɪtʃ] *n.* **1.** шыво́к, шво; **put stitches into a wound** зашыва́ць ра́ну **2.** во́чка (*у вязанні*); **drop a stitch** спусці́ць во́чка **3.** во́стры боль у баку́ ♦ **a stitch in time saves nine** за́хады трэ́ба рабі́ць своечасо́ва; **not have a stitch on :** *He hasn’t a dry stitch on him.* Ён прамок да ніткі; **be in stitches** *infml* захо́дзіцца ад сме́ху, смяя́цца да ко́лікаў

**stitch²** [stɪtʃ] *v.* шыць, вышыва́ць; прышыва́ць; накла́дваць швы; **stitch a wound** зашыва́ць ра́ну

**stitching** [ˈstɪtʃɪŋ] *n.* **1.** шыццё; вышыва́нне; стро́чка **2.** *med.* накла́дванне швоў, зашыва́нне

**stock**[1] [stɒk] *n.* **1.** запа́с (*тавару*), асартыме́нт, рэпертуа́р; **have in stock** мець на скла́дзе; **lay in a stock** рабі́ць запа́с; **be out of stock** быць распрада́дзеным **2.** *pl.* **stocks** а́кцыі, фо́нды, капіта́л; **fixed capital stocks** галоўны капіта́л **3.** скацíна, пагало́ўе жывёлы **4.** мо́цны мясны́ булён **5.** род, паро́да; **a man of farming stock** селянíн па пахо́джанні **6.** ствол (*дрэва*), ру́чка (*чаго-н.*) ♦ **take stock of smth.** крыты́чна ацэ́ньваць што-н.; **be on the stocks** быць у рабо́це (*пра літаратурны твор, мадэль і да т.п.*)

**stock**[2] [stɒk] *v.* **1.** запа́сіць, запа́шваць, хава́ць, мець у ная́ўнасці **2.** забяспе́чваць

**stock up** [ˌstɒkˈʌp] *phr.v.* назапа́сіць, запасці́ся

**stockbreeder** [ˈstɒkˌbriːdə] *n.* жывёлаво́д

**stockbroker** [ˈstɒkˌbrəʊkə] *n.* (біржавы́) ма́клер

**stock company** [ˈstɒkˌkʌmpəni] *n. AmE* **1.** акцыяне́рная кампа́нія **2.** пастая́нная тэатра́льная тру́па, яка́я выступа́е ў адны́м тэа́тры

**stock exchange** [ˈstɒkɪksˌtʃeɪndʒ] *n.* фо́ндавая бі́ржа

**stockholder** [ˈstɒkhəʊldə] *n.* акцыяне́р

**stocking** [ˈstɒkɪŋ] *n.* панчо́ха ♦ **in one's stocking(ed) feet** у адны́х панчо́хах, без абу́тку

**stock-in-trade** [ˌstɒkɪnˈtreɪd] *n.* **1.** запа́с тава́раў **2.** інвента́р, абсталява́нне **3.** шабло́нныя мане́ры або́ рэ́плікі, хі́трыкі; **a politician's stock-in-trade** прыёмы во́пытнага палі́тыка

**stockjobber** [ˈstɒkˌdʒɒbə] *n.* біржавы́ ма́клер; гандля́р кашто́ўнымі папе́рамі

**stockman** [ˈstɒkmən] *n.* (*pl.* **-men**) **1.** *AustralE* рабо́чы на жывёлагадо́ўчай фе́рме **2.** *AmE* жывёлаво́д

**stock market** [ˈstɒkˌmɑːkɪt] *n.* **1.** фо́ндавая бі́ржа **2.** узро́вень цэ́наў на бі́ржы

**stockpile** [ˈstɒkpaɪl] *n.* запа́с, рэзе́рв; **the world's stockpile of nuclear weapons** сусве́тны запа́с я́дзернай збро́і

**stockroom** [ˈstɒkrʊm] *n.* склад, схо́вішча; кладо́ўка, камо́ра

**stock-still** [ˌstɒkˈstɪl] *adv.* нерухо́ма, як слуп; *He stood stock-still.* Ён стаяў як скамянелы.

**stocktaking** [ˈstɒkˌteɪkɪŋ] *n.* **1.** пералі́к тава́ру, інвентарыза́цыя **2.** агля́д, крыты́чны ана́ліз (*палітыкі, падзей і да т.п.*), пераацэ́нка кашто́ўнасцей

**stocky** [ˈstɒki] *adj.* каржакава́ты, прыса́дзісты

**stockyard** [ˈstɒkjɑːd] *n.* двор для жывёлы

**stodge** [stɒdʒ] *n. BrE, infml, derog.* ця́жкая сы́тная е́жа; **have a stodge** нае́сціся да адва́лу

**stodgy** [ˈstɒdʒi] *adj. infml, derog.* **1.** ця́жкі (*пра ежу*) **2.** ну́дны, марко́тны, нецікáвы

**stoic** [ˈstəʊɪk] *n. fml* сто́ік; чалаве́к, які́ му́жна перано́сіць усе́ няго́ды і абыя́кавы да ра́дасцяў жыцця́

**stoical** [ˈstəʊɪkl] *adj.* сто́йкі, му́жны

**stoicism** [ˈstəʊɪsɪzəm] *n. philos.* стаіцы́зм

**stoke** [stəʊk] *v.* падтры́мліваць аго́нь, закі́дваць па́ліва

**stoke up** [ˌstəʊkˈʌp] *phr.v.* запаса́цца; *He stoked up with food for a month.* Ён зрабіў запас яды на месяц.

**stoker** [ˈstəʊkə] *n.* **1.** качага́р, каце́льны машыні́ст **2.** механі́чная то́пка, сто́кер

**stole**[1] [stəʊl] *n.* паланці́н, фу́травы ша́лік; баа́ з но́ркі; **a mink stole** накі́дка

**stole**[2] [stəʊl] *past* → **steal**[2]

**stolen** [ˈstəʊln] *p.p.* → **steal**[2]

**stolid** [ˈstɒlɪd] *adj. degor.* флегматы́чны, апаты́чны, вя́лы; **stolid manners** вя́лыя мане́ры

**stomach**[1] [ˈstʌmək] *n.* стра́ўнік; жыво́т, трыбу́х; **on an empty stomach** на́шча; **a pain in the stomach** боль у стра́ўніку ♦ **have no stomach for smth.** мець сла́бы апеты́т; **have a weak stomach** быць гідлі́вым; **turn smb.'s stomach** выклі́каць агі́ду ў каго́-н.

**stomach**[2] [ˈstʌmək] *v.* **1.** цярпе́ць, трыва́ць, перано́сіць; **stomach an insult** праглыну́ць абра́зу **2.** перава́рваць, пeратраўля́ць

**stomachache** [ˈstʌməkeɪk] *n.* боль у жываце́

**stomach pump** [ˈstʌməkˌpʌmp] *n. med.* стра́ўнікавы зонд

**stomatitis** [ˌstəʊməˈtaɪtɪs] *n. med.* стаматы́т

**stomp** [stɒmp] *v. infml* ту́паць, ця́жка ступа́ць; танцава́ць з прыто́памі

**stone**[1] [stəʊn] *n.* **1.** ка́мень; **a meteoric stone** аэралі́т; **a fall of stones** каменяпа́д; **sand stone** *geol.* пясча́нік; **trip over a stone** спатыка́цца аб ка́мень **2.** ка́мень (*перан.*); **a heart of stone** каме́ннае сэ́рца; **turn to stone** скамяне́ць **3.** ко́стачка (*слівы, вішні і да т.п.*), зярня́тка, зе́рнетка (*плода*) **4.** надмагі́льная плі-та́; *He is buried under this stone.* Ён пахаваны пад гэтым каменем. **5.** *med.* ка́мень, каме́нная хваро́ба; **an operation for stones** апера́цыя па выдале́нні камянёў ♦ **cast the first stone** распача́ць кры́тыку; **leave no stone unturned** прыкла́сці ўсе намага́нні; зраўня́ць з зямлёй; **(at) a stone's throw** ве́льмі блі́зка, зусі́м недалёка; рукóю пада́ць; **kill two birds with one stone** ≅ адны́м уда́рам двух зайцо́ў забі́ць

**stone**[2] [stəʊn] *n.* стоўн (*мера вагі = 14 фунтаў або 6,35 кг*)

**stone**[3] [stəʊn] *v.* **1.** кіда́ць камяні́ (*ў каго-н.*) **2.** *BrE* выма́ць ко́стачкі (*з фруктаў*); **stoned peaches** пе́рсікі без ко́стачак

**Stone Age** [ˈstəʊneɪdʒ] *n.* **the Stone Age** камéнны век

**stone-blind** [ˌstəʊnˈblaɪnd] *adj.* зусíм сляпы́

**stone-broke** [ˌstəʊnˈbrəʊk] *adj.* без грашá за душóю

**stone-cold** [ˌstəʊnˈkəʊld] *adj.* халóдны як лёд

**stoned** [stəʊnd] *adj. infml* вéльмі п’я́ны; *He is stoned.* Ён набраўся.

**stone-deaf** [ˌstəʊnˈdef] *adj.* зусíм глухí; глухí як пень, як калóда

**Stonehenge** [ˌstəʊnˈhendʒ] *n.* Стоўнхéндж (*дагістарычны помнік у Англіі*)

**stonemason** [ˈstəʊnˌmeɪsn] *n.* мýляр; каменячóс

**stonewall** [ˌstəʊnˈwɔːl] *v.* **1.** рабíць абстрýкцыю, ствара́ць перашкóды; **stonewall the debate** перашкаджáць вéсці дэбáты

**stonewalling** [ˌstəʊnˈwɔːlɪŋ] *n.* абстрýкцыя, перашкóды (*пры парламенцкай працэдуры*)

**stoneware** [ˈstəʊnweə] *n.* гліня́ны пóсуд

**stonework** [ˈstəʊnwɜːk] *n.* муравáнка; камéнныя рабóты; камéнная скульптýра

**stony** [ˈstəʊni] *adj.* **1.** камянíсты; **a stony road** камянíстая дарóга **2.** скамянéлы, халóдны; **a stony stare** нерухóмы пóзірк; **a stony silence** ледзяна́я ціш

**stony-faced** [ˌstəʊniˈfeɪst] *adj.* з камéнным твáрам, недружалю́бны

**stood** [stʊd] *past, p.p.* → **stand[2]**

**stooge** [stuːdʒ] *n.* **1.** *infml* пры́хвасцень, марыянéтка **2.** напáрнік кóміка ў тэáтры

**stool** [stuːl] *n.* **1.** табурэ́тка **2.** *med.* стул

**stoop[1]** [stuːp] *n.* сутýласць; гарбáтасць; **walk with a stoop** сутýліцца

**stoop[2]** [stuːp] *v.* **1.** сутýліць; сутýліцца; гóрбіць; гóрбіцца; **stoop in walking** сутýліцца падчáс хады́ **2.** нахіля́ць; нахіля́цца; нагінáць; нагінáцца **3.** апускáцца, дэградзíраваць; **stoop one’s talents** растрáчваць свой тáлент **4.** прынíжáцца; **stoop to cheating** апусцíцца да падмáну; **stoop to anything** пайсцí на што заўгóдна, не грэ́баваць нічы́м **5.** саступáць, паддавáцца; **stoop to fate** скарáцца лёсу

**stoop[3]** [stuːp] *n. AmE* верáнда, тэрáса пéрад дóмам; гáнак; пóрцік

**stoop-shouldered** [ˌstuːpˈʃəʊldəd] *adj.* сутýлы

**stop[1]** [stɒp] *n.* **1.** перапы́нак, пáўза; **bring smb. to a (dead) stop** прымýсіць каго́-н. замаўчáць; **make a stop** спыня́цца, рабíць пáўзу; **without a stop** без перапы́нку **2.** прыпы́нак, супы́нак; затры́мка; **be at a stop** не зрýшыцца з мёртвай крóпкі; **come to a full stop** дайсцí да крáю, зайсцí ў тупíк **3.** прыпы́нак, супы́нак, прыстáнак; *Is this a request stop?* Ці гэта прыпынак па запатрабаванні? **4.** карóткае знахóджанне, прыпы́нак; **make a stop in Paris** спынíцца ненадóўга ў Пары́жы **5.** *ling.* знак прыпы́нку; **a full stop** крóпка **6.** *mus.* клáпан (*духавога інструмента*) **7.** *ling.* выбухны́ зы́чны гук ♦ **pull all the stops out** зрабíць усё магчы́мае, нацíснуць на ўсе педáлі, дзéйнічаць усíмі срóдкамі

**stop[2]** [stɒp] *v.* **1.** спыня́ць; спыня́цца; затры́млíваць; затры́млíвацца **2.** пераставаáць, сціхáць; *Has it stopped raining yet?* Дождж ужо перастáў (ісці)? **3.** спыня́ць, перарывáць, прымушáць змóўкнуць; **4.** перашкаджáць, стры́млíваць; **stop smb. doing smth.** стры́млíваць каго́-н. ад якóй-н. дзéйнасці; *What is stopping you?* Што табе перашкаджае? **5.** *infml* спыня́цца, гасцявáць (*нядоўга*); **stop with smb.** гасцявáць у каго́-н.; **stop behind** заставáцца апóшнім **6.** спыня́ць, блакíраваць, перагарóджваць; **stop one’s ears** затыкáць вýшы; **stop teeth** пламбавáць зýбы; **stop a bottle** закаркóўваць бутэ́льку; **stop smb.’s mouth** затыкáць камý-н. рот *(перан.)*; **stop a wound** спыня́ць кровацячэ́нне з рáны **7.** утры́млíваць, вылíчваць; уразáць, урэ́зваць (*выплату грошай*) **8.** стáвіць знáкі прыпы́нку **9.** *sport* адбівáць мяч (*пра крыкет*), блакíраваць удар (*пра бокс*) ♦ **stop at nothing** ні пéрад чым не спыня́цца; **stop short/dead** рэ́зка спынíцца; **stop smb. short** рэ́зка перарвáць каго́-н.

**stop away** [ˌstɒpəˈweɪ] *phr.v.* адсýтнічаць; **stop away from a lecture** адсýтнічаць на лéкцыі; **stop away from school** не хадзíць у шкóлу

**stop by** [ˌstɒpˈbaɪ] *phr.v.* захóдзіць, забягáць, заглядáць (*да каго-н.*)

**stop down** [ˌstɒpˈdaʊn] *phr.v.* затыкáць, закаркóўваць (*бутэльку*)

**stop in** [ˌstɒpˈɪn] *phr.v. BrE, infml* сядзéць дóма

**stop off** [ˌstɒpˈɒf] *phr.v.* **(at/in)** спыня́цца ў дарóзе, рабíць прыпы́нак

**stop out** [ˌstɒpˈaʊt] *phr.v.* **1.** праця́гваць забастóўку **2.** *AmE* браць акадэмíчны адпачы́нак/вóдпуск

**stop over** [ˌstɒpˈəʊvə] *phr.v.* **(in)** рабíць прыпы́нак падчáс падарóжжа; *We’ll stop over in Rome for an hour.* Мы спыніліся ў Рыме на гадзіну.

**stopgap** [ˈstɒpgæp] *n.* **1.** заты́чка **2.** часóвая мéра; **serve as a stopgap** служы́ць часóвай мéрай

**stop-go** [ˌstɒpˈgəʊ] *n. BrE* палíтыка «стой–ідзí» (*меры папераменнага стымулявання і стрымлівання эканамічнага росту*)

**stoplight** [ˈstɒplaɪt] *n. BrE* **1.** чырвóны сігнáл святлафóра, сігнáл «стой» **2.** (*таксама* **stop lights**) *AmE* стоп-сігнáл

**stopover** [ˈstɒpəʊvə] *n.* прыпы́нак у даро́зе; ме́сца прыпы́нку ў даро́зе
**stoppage** [ˈstɒpɪdʒ] *n.* **1.** спыне́нне (*працы*), прасто́й **2.** перашко́да, зато́р (*руху*) **3.** *pl.* **stoppages** вы́лік; затры́мка (*зарплаты*) **4.** *med.* засме́чванне (*страўніка*)
**stopper** [ˈstɒpə] *n.* **1.** заты́чка, ко́рак **2.** шпунт
**stopping** [ˈstɒpɪŋ] *n.* зубна́я пло́мба; пламбава́нне зу́ба
**stopping train** [ˈstɒpɪŋˌtreɪn] *n.* цягні́к, які́ ча́ста ро́біць прыпы́нкі
**stop-press** [ˌstɒpˈpres] *n.* э́кстраннае паведамле́нне ў газе́це; **a stop-press newspaper** э́кстранны ну́мар газе́ты
**stopwatch** [ˈstɒpwɒtʃ] *n.* секундаме́р са спыне́ннем
**storage** [ˈstɔːrɪdʒ] *n.* **1.** хава́нне, захо́ўванне; **data storage** захо́ўванне да́ных (*у камп'ютары*); **storage shelves** стэла́ж; **a storage wall** сце́нка (*шафы*); **put smth. in/into storage** здава́ць што-н. на захо́ўванне **2.** склад, схо́вішча; **a cold storage** халадзі́льнік **3.** пла́та за захо́ўванне; **pay storage** плаці́ць за захо́ўванне рэ́чаў
**storage battery** [ˈstɔːrɪdʒˌbætəri] *n.* акумуля́тар
**store**[1] [stɔː] *n.* **1.** запа́с, рэзе́рв; **a store of money** сабра́ныя гро́шы, зберажэ́нні; **lay in stores of smth.** рабі́ць запа́сы, запаса́цца; **a store of impressions** мно́ства ўра́жанняў; **stores of learning** вялі́кія ве́ды, эруды́цыя **2.** *pl.* **stores** запа́сы, прыпа́сы, матэрыя́льныя сро́дкі; маёмасць; **war stores** боепрыпа́сы **3.** склад, схо́вішча **4.** кра́ма, магазі́н; **a department store** універма́г; **patronize a store** быць пастая́нным пакупніко́м яко́га-н. магазі́на **5.** запамі́нальнае ўстро́йства, накапля́льнік (*камп'ютара*) ♦ **be in store for smb.** : *What is in store for me?* Што чакае мяне ў будучым? **keep smth. in store** трыма́ць што-н. у запа́с, на бу́дучае; **store is no sore** ≅ ма́слам ка́шы не змарну́еш, запа́с бяды́ не чы́ніць
**store**[2] [stɔː] *v.* **1.** запаса́ць, хава́ць; **store (up) food for the winter** запаса́цца ядо́ю на зіму́ **2.** хава́ць, захо́ўваць; **store (away) plants from frost** зберага́ць раслі́ны ад маро́зу **3.** забяспе́чваць; напаўня́ць; **a mind well stored with facts** галава́, по́ўная фа́ктаў; *His mind is well stored with knowledge.* Ён шмат ведае; *Don't store your head with trivial things.* Не забівай галаву дробязямі. **4.** змяшча́ць, умяшча́ць; *How much food can this little cupboard store?* Як многа прадуктаў улезе ў гэты буфецік?
**storehouse** [ˈstɔːhaʊs] *n.* амба́р; кладо́ўка; склад, схо́вішча; *This book is a storehouse of useful information.* Гэтая кніга – скарбніца карыснай інфармацыі.
**storekeeper** [ˈstɔːˌkiːpə] *n.* **1.** кра́мнік; кра́мніца **2.** кладаўшчы́к; кладаўшчы́ца
**storeroom** [ˈstɔːrʊm] *n.* кладо́ўка, камо́рка
**storey** [ˈstɔːri] *n.* паве́рх; **a two-storeyed building** двухпавярхо́вы буды́нак; **the top storey** *infml, joc.* мазгі́, «кацяло́к» ♦ *He is **weak in the upper storey**.* У яго кепска варыць кацялок.
**stork** [stɔːk] *n.* бу́сел, баця́н
**storm**[1] [stɔːm] *n.* **1.** бу́ра, шторм; **a snowstorm** завіру́ха, замяту́ха, мяце́ліца, заве́я **2.** **(of)** вы́бух, град, бу́ра (*чаго-н.*); **a storm of applause** бу́ра во́плескаў; **a storm of laughter** вы́бухі сме́ху; **a storm of criticims** град крыты́чных заўва́г **3.** мо́цнае хваліва́нне; **a poiltical storm** паліты́чныя хвалява́нні; **stir up a storm** узня́ць бу́ру ♦ **a storm in a teacup** бу́ра ў шкля́нцы вады́; **take smth. by storm** узя́ць што-н. шту́рмам
**storm**[2] [stɔːm] *v.* **1.** бушава́ць, штармі́ць, штармава́ць **2.** крыча́ць, гарачы́цца; шале́ць ад зло́сці; **storm at smb.** напада́ць на каго́-н. **3.** *mil.* штурмава́ць
**stormbound** [ˈstɔːmbaʊnd] *adj.* затры́маны што́рмам
**storm centre** [ˈstɔːmˌsentə] *n.* **1.** цэнтр цыкло́на **2.** асно́ўнае спрэ́чнае пыта́нне; **become a storm centre of a controversy** стаць гало́ўнай прычы́най спрэ́чак
**storm cloud** [ˈstɔːmklaʊd] *n.* навальні́чная хма́ра; прыкме́та, яка́я прадка́звае бяду́; «хма́ра на небасхі́ле»
**storm door** [ˈstɔːmdɔː] *n.* знадво́рныя дзве́ры
**stormproof** [ˈstɔːmpruːf] *adj.* здо́льны вы́трываць шторм, бу́ру
**stormsash** [ˈstɔːmsæʃ] *n.* друга́я ако́нная ра́ма
**storm troops** [ˈstɔːmtruːps] *n. pl.* уда́рныя ча́сці, штурмавы́я атра́ды
**storm window** [ˈstɔːmˌwɪndəʊ] *n.* = **stormsash**
**stormy** [ˈstɔːmi] *adj.* **1.** бу́рны, штармавы́, навальні́чны; **stormy weather** штармаво́е надво́р'е; **a stormy wind** мо́цны ве́цер **2.** бу́рны, запа́льчывы; лю́ты, шалёны; раз'ю́шаны; **a stormy look** зло́сны по́зірк; **a stormy discussion** бу́рная дыску́сія
**story** [ˈstɔːri] *AmE* = **storey**
**story** [ˈstɔːri] *n.* **1.** апавяда́нне, апо́весць; **a fairy story** ба́йка; **a funny story** анекдо́т **2.** гісто́рыя, раска́з; **according to her story** паво́дле яе́ слоў **3.** газе́тны матэрыя́л ♦ **tell stories** ба́йкі ба́яць; **to make/cut a long story short**

карацéй (кáжучы); **that is another story** гэ́та íншая спрáва

**storybook** [ˈstɔːribʊk] *n.* збóрнік апавядáнняў абó кáзак

**storyline** [ˈstɔːrilaɪn] *n.* фáбула, галóўная сюжэ́тная лíнія

**storyteller** [ˈstɔːriˌtelə] *n.* **1.** апавядáльнік; апавядáльніца; раскáзчык; раскáзчыца **2.** *infml* вы́думшчык, ілгýн, манюка, пляткáр

**stoup** [stuːp] *n. eccl.* чáша са святóю вадóю (*пры ўваходзе ў царкву)*

**stout¹** [staʊt] *n.* мóцны пóртар (*гатунак піва*)

**stout²** [staʊt] *adj.* **1.** мóцны, трывáлы; **a stout pair of boots for climbing** мóцныя чаравíкі для альпінíзму **2.** тóўсты, пóўны, мажны́, дзябёлы; **grow stout** растаўсцéць **3.** *fml* адвáжны, мýжны, смéлы; **make a stout resistance** цвёрда супраціўля́цца

**stout-hearted** [ˌstaʊtˈhɑːtɪd] *adj. fml* стóйкі, смéлы, адвáжны

**stove¹** [stəʊv] *n.* плітá, грýбка, печ; **light a stove** распáльваць печ; **burn wood in a stove** палíць печ дрóвамі; **stove heating** пячнóе ацяплéнне

**stove²** [stəʊv] *past, p.p.* → **stave²**

**stow** [stəʊ] *v.* уклáдваць; складáць, склáдваць; хавáць; **stow cargo** грузíць тавáры (*на судна*)

**stow away** [ˌstəʊəˈweɪ] *phr.v.* хавáцца, éхаць без білéта (*на параходзе, самалёце*)

**stowaway** [ˈstəʊəweɪ] *n.* безбілéтны пасажы́р (*на параходзе, самалёце*)

**St Patrick's Day** [sntˈpætrɪksˌdeɪ] *n.* Дзень Святóга Пáтрыка (*нацыянальнае свята Ірландыі, 17 сакавіка*)

**St Paul's Cathedral** [sntˌpɔːlzkəˈθiːdrəl] *n.* сабор Святóга Паўла (*галоўны сабор англіканскай царквы, Лондан*)

**Str** (*пісьмовае. скар. ад* **Strait**) пралíў; **the Magellan Str** Магелáнаў пралíў

**straddle** [ˈstrædl] *v.* **1.** расстаўля́ць ширóка нóгі; сядзéць вярхóм **2.** хістáцца, вéсці двaíстую палíтыку

**straggle** [ˈstrægl] *v.* **1.** быць раскíданым; **a straggling village** раскíданая вёска **2.** адставáць, ісцí ўразбрóд, разбрыдáцца

**straggler** [ˈstræglə] *n.* адстаючы (*салдат, спартсмен і да т.п.*)

**straight¹** [streɪt] *adj.* **1.** прамы́, рóўны; **a straight back** прамáя спíна; **straight hair** прамы́я валасы́; **a straight flight** палёт па прамóй **2.** прáвільны, рóўны; *Your tie isn't straight.* Ваш гальштук збіўся набок. **3.** праўдзíвы, шчы́ры, прóсты, адкры́ты; **keep straight** заставáцца шчы́рым; **a straight talk** шчы́рая размóва **4.** чы́сты па жáнры; **a straight play** чы́стая дрáма (*без музыкі*) **5.** неразвéдзены, неразбáўлены (*напой*) **6.** тóе, што ідзé зáпар; **two straight days** два дні зáпар ♦ **keep a straight face** стры́мліваццa ад смéху; **as straight as a die/an arrow** прамы́ як стралá; прамы́, шчы́ры

**straight²** [streɪt] *adv.* **1.** прáма, напраcткí; **straight ahead** прáма напéрад **2.** неадклáдна, адрáзу, зáраз жа ♦ **go straight** жыць без хíтрыкаў; **speak straight from the shoulder** рубíць з плячá, гавары́ць прáма

**straightaway** [ˌstreɪtəˈweɪ] *adv.* неадклáдна, зáраз жа

**straighten** [ˈstreɪtn] *v.* выпрóстваць, выраўнóўваць; папраўля́ць; **straighten oneself** выпрамля́цца, выпрóстваццa

**straighten out** [ˌstreɪtnˈaʊt] *phr.v.* разабрáцца, адкíнуць непаразумéнні

**straightforward** [ˌstreɪtˈfɔːwəd] *adj.* адкры́ты, рашýчы, шчы́ры, прамы́; **a straightforward statement** просталінéйнае, катэгары́чнае сцвéрджанне

**strain¹** [streɪn] *n.* **1.** нагрýзка; напя́тасць, нацяжэ́нне; **break under the strain** ірвáцца ад нагрýзкі **2.** напрýжанне, намагáнне; перагрýзка; **suffer from mental/nervous strain** пакýтаваць ад разумóвай/нервóвай нагрýзкі **3.** расцяжэ́нне (*звязак, цягліцаў і да т.п.*); **a painful strain** балю́чае расцяжэ́нне

**strain²** [streɪn] *v.* **1.** наця́гваць; наця́гвацца; расця́гваць; расця́гвацца; напінáць; напінáцца **2.** напрýжваць; напрýжвацца; **strain at smth.** цягнýць што-н.; **strain one's eyes** стамля́ць вóчы; **strain smb.'s patience** выпрабóўваць чыё-н. цярпéнне **3.** фільтравáць, працэ́джваць; **strain after effects** біць на эфéкт; старáцца з усíх сіл дзéля эфéкту ♦ **strain at the leash** *infml* рвáцца, імкнýцца зрабíць што-н. з усíх сіл; **strain every nerve/sinew (to do smth.)** старáцца з усяé мóцы (зрабíць што-н.)

**strain off** [ˌstreɪnˈɒf] *phr.v.* адцэ́джваць

**strain³** [streɪn] *n.* **1.** спáдчынная ры́са, схíльнасць (*характару*); *There is a strain of weakness in him.* Ён слабы чалавек па прыродзе. **2.** парóда, род, від; **a new strain of virus** нóвы від вíруса; **in the same strain** у тым жа дýху, гумóры; **of noble strain** высакарóднага пахóджання

**strained** [streɪnd] *adj.* **1.** наця́гнуты, напя́ты, расця́гнуты; **a strained shoulder** расця́гнутае плячó **2.** ненатурáльны, напрýжаны; **a strained laugh** вы́мучаны смех; **strained cordiality** напускнáя сардэ́чнасць

**strainer** [ˈstreɪnə] *n.* **1.** сíта; сíтца; рэ́шата **2.** друшля́к, шумо́ўка, цадзíлка

**strait** [streɪt] *n.* **1.** ву́зкі пралíў; прато́ка; **the Strait of Gibralter** Гібралта́рскі пралíў **2.** *pl.* **straits** ця́жкасці, кло́пат; **be in serious financial straits** мець сур'ёзныя фіна́нсавыя праблéмы

**straitened** [ˈstreɪtənd] *adj. fml* лімітава́ны; **be in straitened circumstances** знахо́дзіцца ў ця́жкіх абста́вінах

**straitjacket** [ˈstreɪtˌdʒækɪt] *n.* уціхамíрвальная кашу́ля

**straitlaced** [ˌstreɪtˈleɪst] *adj.* стро́гі, пурыта́нскі, нецярпíмы ў пыта́ннях мара́лі

**strand**[1] [strænd] *n.* па́сма (*ніта́к, валасоў і да т.п.*), валакно́, во́лас; **a strand of pearls** шнуро́к пéрлаў

**strand**[2] [strænd] *n. lit.* пясча́ны бéраг

**strand**[3] [strænd] *v.* сéсці на мель, пасадзíць на мель; **be stranded** быць на мéлі (*таксама перан.*)

**strange** [streɪndʒ] *adj.* **1.** чужы́, незнаёмы; *I am strange to this job.* Я не звыкся з гэтай работай. **2.** дзíўны **3.** незвыча́йны, нязвы́чны; **strange to say/relate** дзíўна сказа́ць; **strange as it may seem** як ні дзíўна ♦ **feel strange :** *I feel strange.* Мне не па сабе.

**stranger** [ˈstreɪndʒə] *n.* **1.** незнаёмец, незнаёмка; чужы́, чужа́я **2.** чужазéмец; чужазéмка; чужы́нец; чужы́нка ♦ **be no/a stranger to smth.** *fml* звéдваць/не звéдваць што-н.

**strangle** [ˈstræŋgl] *v.* **1.** душы́ць, давíць; **a strangled cry** заглу́шаны плач **2.** заглуша́ць, прыглуша́ць; **strangle an insurrection** задушы́ць бунт

**stranglehold** [ˈstræŋglhəʊld] *n.* **1.** мёртвая хва́тка; **have a stranglehold on smb.** браць каго́-н. за го́рла **2. (on)** кантро́ль; засíлле; **the male stranglehold in politics** засíлле мужчы́н у палíтыцы

**strangulate** [ˈstræŋgjəleɪt] *v. med.* сціска́ць, ушчамля́ць (*што-н.*), перавя́зваць (*аорту, кішку*)

**strap**[1] [stræp] *n.* **1.** папру́га, рэ́мень; по́яс; шлéйка **2.** до́ўгая ву́зкая паласа́, пало́ска **3.** *mil.* паго́н **4.** *infml* **the strap** лупцо́ўка папру́гаю; **be given the strap** атрыма́ць лупцо́ўку

**strap**[2] [stræp] *v.* **1.** сця́гваць рамяня́мі **2.** *med.* наклада́ць, накла́дваць павя́зку, забінто́ўваць **3.** лупцава́ць папру́гаю

**strap in** [ˌstræpˈɪn] *phr.v.* зашпíльваць рамянí (*у машыне, самалёце*)

**straphanger** [ˈstræpˌhæŋə] *n. infml* пасажы́р, які́ сто́ячы трыма́ецца за рэ́мень (*у аўтобусе, трамваі і да т.п.*)

**strapless** [ˈstræpləs] *adj.* без шлéек (*купальнік, вячэрняя сукенка і да т.п.*)

**strapped** [stræpt] *adj. infml* **(for) :** *He's often strapped for cash.* У яго часта не бывае ні капейкі ў кішэні.

**strapping** [ˈstræpɪŋ] *adj.* вялíкі, ро́слы; ду́жы, мажны́; **a strapping fellow** здаро́вы хло́пец; **a strapping girl** ро́слая дзяўчы́на

**strata** [ˈstrɑːtə] *n. pl.* → **stratum**

**stratagem** [ˈstrætədʒəm] *n. fml* (вае́нная) хíтрасць, стратагéма

**strategic** [strəˈtiːdʒɪk] *adj.* стратэгíчны; **strategic decisions** стратэгíчныя рашэ́нні; **strategic materials** стратэгíчныя матэрыя́лы

**strategist** [ˈstrætədʒɪst] *n.* стратэ́г

**strategy** [ˈstrætədʒi] *n.* **1.** стратэ́гія; **a strategy of destruction** стратэ́гія на знішчэ́нне **2.** мéтад, спо́саб, падыхо́д, прыём; **economic strategies** эканамíчныя падыхо́ды; *We must use new strategies in teaching.* Мы павінны карыстацца новымі метадамі навучання.

**stratify** [ˈstrætɪfaɪ] *v. fml or geol.* насло́йваць, напласто́ўваць; **a highly stratified society** мо́цна расслóенае грама́дства; **a stratified rock** слаíстая скала́

**stratosphere** [ˈstrætəsfɪə] *n.* стратасфéра

**stratum** [ˈstreɪtəm] *n.* (*pl.* **strata**) **1.** пласт, слой; **social strata** сацыя́льныя слаí, пласты́; **strata of thought** узро́ўні мы́слення **2.** *geol.* напластава́нне, фарма́цыя

**straw** [strɔː] *n.* сало́ма, сало́мінка ♦ **not to care a straw** ста́віцца абыя́кава; **clutch/grasp at a straw** хапа́цца за сало́мінку; **the last/final straw(that breaks the camel's back)** ≅ апо́шняя кро́пля (цярпéння)

**strawberry** [ˈstrɔːbəri] *n.* клубнíца, труска́лка; **wild strawberries** сунíцы

**strawberry blonde** [ˌstrɔːbəriˈblɒnd] *n.* рыжава́тая бландзíнка

**strawberry tomato** [ˌstrɔːbəritəˈmɑːtəʊ] *n. bot.* фіза́ліс

**straw poll** [ˌstrɔːˈpəʊl] *n.* вы́барачнае апыта́нне грама́дскай ду́мкі (*асабліва перад выбарамі*)

**stray**[1] [streɪ] *n.* **1.** блу́дная жывёліна **2.** бяздо́мны чалавéк, туля́га; беспрыту́льнае дзіця́

**stray**[2] [streɪ] *adj.* **1.** бяздо́мны; прыблу́дны; бадзя́жны, валацу́жны **2.** рэ́дкі, выпадко́вы; **a stray bullet** шалёная ку́ля; **a few stray taxis** нéкалькі выпадко́вых таксí

**stray**[3] [streɪ] *v.* блудзíць, блука́ць; заблудзíцца, заблука́ць; **stray from the flock** адбіва́цца ад ста́тка, чарады́, ад вы́раю; **stray from the point** адхіля́цца ад тэ́мы

**streak**[1] [stri:k] *n.* **1.** паласá, палóска; жы́лка, прóжылак; *There are streaks of grey in her hair.* У яе валасы з сівізною; **like a streak of lightning** з хýткасцю малáнкі **2.** ры́са (*характару*); **a nervous streak** нервóзнасць; **a yellow streak** баязлíвасць **3.** перы́яд, праме́жак, паласá; **a (long) streak of (good) luck** (дóўгая) паласá удáчы, паласá шанцавáння

**streak**[2] [stri:k] *v.* **1.** пакідáць палóскі; **white marble streaked with brown** бе́лы мáрмур з кары́чневымі прóжылкамі **2.** хýтка рýхацца, імчáцца стралóю; *He streaked off as fast as his legs would carry.* Ён пранёсся так хутка, як толькі маглі несці ногі.

**streaky** [ˈstri:ki] *adj.* паласáты; **streaky bacon** бекóн з праслóйкамі сáла

**stream**[1] [stri:m] *n.* **1.** рэ́чка; раўчýк, ручáй, ручаёк; **a crossing stream** перапрáва; *pl.* **streams** *poet.* вóды (*ракі*) **2.** патóк, струме́нь; **a stream of traffic** чарадá машы́н; **a stream of cold air** струме́нь халóднага паве́тра; **a stream of light** праме́нь святлá **3.** плынь, цячэ́нне (*ракі*); **up/down stream** уве́рх/уніз па цячэ́нні; **swim with/against the stream** плы́сці па цячэ́нні/сýпраць цячэ́ння **4.** напрáмак, цячэ́нне; **a stream of events** плынь падзе́й; **in the main stream of the tradition** у адпаве́днасці з галóўнай трады́цыяй **5.** патóк (*на курсе*); клáсы, падабрáныя павóдле здóльнасцей абó схíльнасцей вýчняў

**stream**[2] [stri:m] *v.* **1.** цячы́, выцякáць; лíцца, струме́ніцца; **a streaming cold** мóцны нáсмарк; **stream with perspiration** абліваáцца пóтам; *Her eyes streamed tears.* У яе з вачэй цяклі слёзы. **2.** размáхваць, развявáцца; *Her hair streamed (out) in the wind.* Яе валасы развяваліся ад ветру. **3.** хýтка, імклíва рýхацца; пранóсіцца; *The children streamed out of their classroom.* Дзеці рванулі з класнага пакоя. **4.** размяркóўваць шкóльнікаў па патóках абó па клáсах у зале́жнасці ад іх здóльнасцей, схíльнасцей і да т.п.

**streamer** [ˈstri:mə] *n.* транспарáнт, лóзунг; дóўгая вýзкая стýжка; **paper streamers** серпанцíн

**streaming** [ˈstri:mɪŋ] *n.* сістэ́ма патóкаў (*у школах*)

**streamlet** [ˈstri:mlət] *n.* ручаёк

**streamline** [ˈstri:mlaɪn] *v.* **1.** надавáць абцякáльную фóрму (*чаму-н.*) **2.** рабíць што-н. больш эфекты́ўным абó рацыянáльным; **streamline the text** скарачáць тэкст, выкідáць з тэ́ксту непатрэ́бнае, рабíць купю́ры

**streamlined** [ˈstri:mlaɪnd] *adj.* **1.** які́ мáе абцякáльную фóрму **2.** рацыяналізавáны, удасканáлены, мадэрнізавáны; **streamlined methods** рацыянáльныя ме́тады

**stream of consciousness** [ˌstri:məvˈkɒnʃəsnɪs] **1.** *psychol*. плынь свядóмасці **2.** унýтраны маналóг

**street** [stri:t] *n.* вýліца; **a back street** завýлак; **street lighting** вýлічнае асвятле́нне; **a street map** план вýліц; **at street level** на ўзрóўні зямлí ♦ **be (out) on the street(s)** *infml* быць бяздóмным; **the man in the street** звычáйны чалаве́к; **not in the same street (as smb./smth.)** *infml* не раўня́ (камý-н./чамý-н.); **be streets ahead (of smb./smth.)** *infml* апярэ́джваць (кагó-н./што-н.); **(right) up your street** *infml* якрáз для цябе́

**streetcar** [ˈstri:tkɑ:] *n. AmE* = **tram**

**streetlamp** [ˈstri:tlæmp] *n.* вýлічны ліхтáр

**streetpeople** [ˈstri:tpi:pl] *n. pl.* бяздóмныя лю́дзі, валацýгі; хíпі

**street railway** [ˌstri:tˈreɪlweɪ] *n. AmE* трамвáйная лíнія; аўтóбусная лíнія

**street refuge** [ˈstri:tˌrefju:dʒ] *n.* астравóк бяспе́кі (*на вуліцы*)

**street-sweeper** [ˈstri:tˌswi:pə] *n.* машы́на для падмятáння вýліц

**street value** [ˈstri:tˌvælju:] *n.* «вýлічная» цанá, цанá на чóрным ры́нку (*пра наркотыкі*)

**streetway** [ˈstri:tweɪ] *n.* праéзная чáстка вýліцы; брук, маставáя

**strength** [streŋθ] *n.* **1.** сíла, моц, тryвáласць; **strength of body** фізíчная сíла; **strength of mind/will** сíла дýху/вóлі; **measure one's strength with smb.** паме́рацца сíлаю з кім-н., падýжацца, пабарукáцца; **have no strength left** застáцца без сіл; **recover/regain strength** узнаўля́ць сíлу/моц; **by sheer strength** аднóю сíлаю; **beyond my strength** звыш маíх сіл; мне не пад сíлу **2.** мóцны бок, мóцная ры́са; **strengths and weaknesses** мóцныя і слáбыя бакí (*чаго-н.*) **3.** кры́ніца сíлы, падтры́мка; *Where does his strength lie?* У чым яго моц? **4.** інтэнсíўнасць (*колеру*), канцэнтрáцыя (*раствору*); мацýнак; цвёрдасць (*зямлі*); эфекты́ўнасць (*дзеяння, руху*); **the strength of coffee** мацýнак кáвы; **the strength of the pulse** *med.* напаўне́нне пýльсу **5.** кóлькасны склад; штат; **military strength** кóлькасць узбрóеных сіл; **fighting strength** *mil.* баяздóльны састáў; **in/at full strength** у пóўным склáдзе; **on the strength** у склáдзе, у штáце, у спíсах ♦ **on the strength of smth.** дзя́куючы чамý-н.

**strengthen** [ˈstreŋθn] *v.* мацавáць, узмацня́ць; узмацня́цца; **strengthen one's health** падмацóўваць здарóўе; **strengthen ties of friend-**

**ship** умацóўваць дружалю́бныя сýвязі; **strengthen a solution** *chem.* рабíць раствóр мóцным

**strenuous** [ˈstrenjuəs] *adj.* **1.** напрýжаны, ця́жкі; **strenuous efforts** ця́жкія намагáнні **2.** энергíчны, старáнны (*пра чалавека*); **a strenuous supporter** заўзя́ты прыхíльнік

**strenuously** [ˈstrenjuəsli] *adv.* напрýжана, энергíчна; заўзя́та; **work strenuously** працавáць заўзя́та

**streptomycin** [ˌstreptəʊˈmaɪsɪn] *n. pharm.* стрэптаміцы́н

**stress**[1] [stres] *n.* **1.** напрýжанне, ціск, стрэс; **in times of stress** у ця́жкі час; **the stress of weather** нéпагадзь, бýра; **under the stress of poverty** пад гнётам бéднасці; **under the stress of fear** пад уздзéяннем стрáху **2.** значэ́нне; **lay stress on/upon smth.** падкрэ́сліваць што-н.; надавáць чамý-н. вялíкае значэ́нне **3.** *ling.* нáціск; **place/put stresses** расстаўля́ць нáціскі

**stress**[2] [stres] *v.* **1.** падкрэ́сліваць **2.** *ling.* рабíць нáціск; стáвіць (слóва) пад нáціск; *Stress the first syllable.* Пастаў націск на першы склад.

**stressed** [strest] *adj. ling.* націскны́ (*склад*); **a stressed word** слóва пад нáціскам

**stressful** [ˈstresfəl] *adj.* напрýжаны; стрэ́савы; *She finds her new job very stressful.* Яна лічыць, што яе новая праца вельмі напружаная.

**stress mark** [ˈstresmɑːk] *n.* значóк нáціску; *The primary stress mark is on the first syllable.* Галоўны націск прыпадае на першы склад.

**stressor** [ˈstresə] *n. psychol.* стрэ́сар; фáктар, які́ выклікáе стрэс

**stress-timed** [ˌstresˈtaɪmd] *adj. ling.* тактальічы́льны (*рытм*)

**stretch**[1] [stretʃ] *n.* **1.** праця́гласць, прасця́г, прастóра **2.** прамéжак чáсу; **at a stretch** за адзíн раз, адны́м захóдам **3.** выця́гванне, расця́гванне; **give shoes a stretch** расця́гваць тýфлі **4.** эласты́чнасць; **have a lot of stretch** лёгка расця́гвацца ♦ **at full stretch** на пóўную моц, пóўнасцю

**stretch**[2] [stretʃ] *v.* **1.** расця́гваць; расця́гвацца; выця́гваць; выця́гвацца; **stretch gloves** расця́гваць пальчáткі; *Does this material stretch?* Гэта тканіна цягнецца? **2.** нацягваць; нацягвацца; напрýжваць; напрýжвацца; **stretch every nerve** напрýжваць кóжны нерв **3.** цягнýцца, распасцірáцца; *The forest stretches for hundreds of miles.* Лес цягнецца на сотні міль. **4.** перабóльшваць; дапускáць нацяжкі; **stretch the truth** дадавáць тóе, чагó не былó; перабóльшваць; **stretch the meaning of a word** пашырáць значэ́нне слóва, надавáць слóву дадаткóвае значэ́нне ♦ **stretch a point** выхóдзіць за мéжы дазвóленага; *Don't stretch the point!* Рабі як трэба! Не парушай правілы; **stretch one's legs** *infml* размінáць нóгі; прагýльвацца

**stretch out** [ˌstretʃˈaʊt] *phr.v.* праця́гваць; праця́гвацца; **stretch oneself out** расця́гвацца (*на канапе, ложку і да т.п.*)

**stretcher** [ˈstretʃə] *n.* насíлкі (*для хворых*); **a stretcher case** ляжáчы рáнены; хвóры, якóму патрэ́бны насíлкі

**stretcher-bearer** [ˈstretʃəˌbeərə] *n.* санітáр-насíльшчык

**strew** [struː] *v.* **(strewed, strewn** *or* **strewed)** раскíдваць, пасыпáць; *The lawn was strewn with flowers.* Лужок быў усыпаны кветкамі.

**strewn** [struːn] *p.p.* → **strew**

**stricken** [ˈstrɪkn] *adj. fml* (**by/with**) паражóны (*чым-н.*), ахóплены; **stricken with grief** прыгнéчаны гóрам; **stricken by disease** звáлены хварóбай

**strict** [strɪkt] *adj.* **1.** стрóгі, патрабавáльны, сурóвы; **a strict upbringing** стрóгае выхавáнне; **in strict confidence** стрóга канфідэнцыя́льна; **keep strict watch (over smb.)** пíльна сачы́ць (за кім-н.) **2.** пэ́ўны, даклáдны; **a strict diet** стрóгая дыéта; **the strict truth** чы́стая прáўда; **in strict secrecy** у пóўным сакрэ́це

**strictly** [ˈstrɪktli] *adv.* стрóга, даклáдна ♦ **strictly speaking** стрóга кáжучы

**stricture** [ˈstrɪktʃə] *n. fml* **1.** **(on)** асуджэ́нне, ганьбавáнне **2.** абмежавáнне; **social stricture** сацыя́льныя забарóны

**stridden** [ˈstrɪdn] *p.p.* → **stride**[2]

**stride**[1] [straɪd] *n.* **1.** вялíкі крок **2.** пахóдка, хадá; ♦ **make great/rapid strides** рабíць вялíкія/хýткія пóспехі; **get into one's stride** *BrE* брáцца за спрáву; **take smth. in one's stride** *BrE* пераадóльваць што-н. без намагáнняў

**stride**[2] [straɪd] *v.* **(strode, stridden)** крóчыць, ісцí вялíкімі крóкамі

**stride across** [ˌstraɪdəˈkrɒs] *phr.v.* пераступáць, перахóдзіць

**stride over** [ˌstraɪdˈəʊvə] *phr.v.* = **stride across**

**strident** [ˈstraɪdənt] *adj.* рэ́зкі, скрыпýчы, пранíзлівы (*голас, гук і да т.п.*); **strident colours** крыклíвыя кóлеры; **a strident protest** гýчны пратэ́ст

**strife** [straɪf] *n. fml or lit.* канфлíкт; спрэ́чка, свáрка; разлáд; пярэ́чанне; **be at strife** знахóдзіцца ў стáне канфлíкту; **make strife** выклікáць спрэ́чкі, сéяць нязгóду

**strike**[1] [straɪk] *n.* забастóўка, страйк; **a general strike** агýльная забастóўка; **a sit-down strike** сядзя́чая/італья́нская забастóўка; **go on strike** баставáць, страйкавáць

**strike**[2] [straɪk] *n.* **1.** удáр; **make a strike at smb.** замахнýцца на кагó-н. (*кулаком, калом і да т.п.*); **counter a strike** адбíць удáр **2.** адкрыццё радóвішча; нечакáная ўдáча; **a lucky strike in politics** нечакáная паліты́чная перамóга (*на выбарах*)

**strike**[3] [straɪk] *v.* **(struck) 1. (on/upon)** біць; **strike smb. in the face** удáрыць кагó-н. па твáры; **strike a blow** нанéсці ўдар **2.** нападáць; *They struck the enemy.* Яны атакавалі ворага. **3.** высякáць (*агонь*), запáльваць; **strike a match** чы́ркнуць запáлкаю **4.** біць (*пра гадзіннік*); *It has just struck four.* Толькі што прабіла чатыры гадзіны. **5.** паражáць, ударáць; **strike smb. blind** асляпля́ць кагó-н.; **be struck dump** быць збíтым з панталы́ку **6. (on/upon)** знахóдзіць, выпадкóва сустракáць; **strike water** знайсцí вадý (*пад зямлёю*); **strike a plan** прыдýмаць план **7.** выключáць, выкрэ́сліваць **8.** здзіўля́ць, урáжваць, прыця́гваць увáгу ♦ **as it strikes me** як мне здаéцца; **strike the eye** кíдацца ў вóчы; **be struck on smb.** быць закахáным у кагó-н.; **strike an attitude/a pose** прымáць (тэатрáльную) пóзу; **strike a balance** знахóдзіць кампрамíс; **strike home** трáпіць у цэль; **strike a bargain** прыйсцí да згóды; **strike life into smb.** удыхнýць жыццё ў кагó-н.; **strike into another song** завéсці íншую пéсню; **strike while the iron is hot** куй жалéза, пакýль гарáчае

**strike back** [ˌstraɪkˈbæk] *phr.v.* давáць здáчы

**strike down** [ˌstraɪkˈdaʊn] *phr.v.* звалíць, павалíць, збіць

**strike off** [ˌstraɪkˈɒf] *phr.v.* вы́красліць; **strike a name off the list** вы́красліць імя́ са спíсу

**strike out** [ˌstraɪkˈaʊt] *phr.v.* хýтка рýхацца, імчáцца

**strike up** [ˌstraɪkˈʌp] *phr.v.* **1.** пачáць; **strike up a quarrel** распачáць свáрку **2.** зайгрáць; *The band struck up.* Аркестр зайграў.

**strikebreaker** [ˈstraɪkˌbreɪkə] *n.* штрэйкбрэ́хер

**striker** [ˈstraɪkə] *n.* **1.** забастóўшчык, страйкóвец **2.** гадзíннік з бóем

**striking** [ˈstraɪkɪŋ] *adj.* дзівóсны, дзíўны, надзвычáйны, незвычáйны; **a striking contrast** я́ркі кантрáст

**string**[1] [strɪŋ] *n.* **1.** вярóвачка, тасёмка, шнур, шнурóк; **a string of beads** нíтка пáцерак/карáляў **2.** струнá **3.** *pl.* **the strings** стрýнныя інструмéнты **4.** чарадá, шэ́раг; **a string of cars** гуж, чарадá машы́н ♦ **have/keep smb. on a string** трымáць кагó-н. на пры́вязі, пад кантрóлем, у пóўнай залéжнасці; **(with) no strings attached/without strings** у пóўнай незалéжнасці; **pull strings** карыстáцца сýвязямі

**string**[2] [strɪŋ] *v.* **(strung) 1.** наця́гваць, напінáць (*струну, вяроўку і да т.п.*) **2.** нізáць, нанíзваць (*пацеркі*) **3.** лýшчыць (*стручкі фасолі, гароху і да т.п.*) ♦ **string smth. together :** *I can't string two words of French together*. Я не магу звязаць і двух слоў па-французску.

**string along** [ˌstrɪŋəˈlɒŋ] *phr.v.* **: string smb. along** падмáнваць кагó-н. наўмы́сна; **string along (with smb.)** ісцí слéдам (за кім-н.); быць вéрным (камý-н.)

**string out** [ˌstrɪŋˈaʊt] *phr.v.* расця́гваць; расця́гвацца (*гужам*); **string out the washing** развéшваць бялíзну (*на вяроўку*)

**string up** [ˌstrɪŋˈʌp] *phr.v.* **1.** напрýжваць (*нервы*) **2.** *infml* вéшаць злачы́нцу

**string bean** [ˌstrɪŋˈbiːn] *n. BrE, bot.* стручкóвая фасóля

**stringent** [ˈstrɪndʒənt] *adj. fml* **1.** стрóгі, сурóвы (*пра закон, правіла і да т.п.*) **2.** ця́жкі (*пра фінансавыя абставіны*)

**string instrument** [ˌstrɪŋˈɪnstrəmənt] *n.* стрýнны музы́чны інструмéнт

**stringy** [ˈstrɪndʒi] *adj.* **1.** валакнíсты; **stringy meat** жы́лістае мя́са **2.** як вярóўкі (*пра валасы*)

**strip**[1] [strɪp] *n.* **1.** вýзкая палóска; пáсак, лéнта; **a landing strip** пасáдачная паласá **2.** *BrE* адзéнне футбалíстаў

**strip**[2] [strɪp] *v.* **1.** раздзявáць; раздзявáцца, здымáць вóпратку; **strip to the waist** зняць адзéнне да пóяса **2.** абдзірáць, здымáць (*скурку, кару*) **3.** пазбаўля́ць (*спадчыны, гонару і да т.п.*); *He was stripped of everything.* У яго аднялі ўсё. **4.** спустóшваць; **strip the house bare** *infml* абакрáсці, абчы́сціць дом

**strip down** [ˌstrɪpˈdaʊn] *phr.v.* разбірáць (*на часткі*)

**strip off** [ˌstrɪpˈɒf] *phr.v.* саскрэ́бваць, здзірáць (*фарбу*)

**stripe** [straɪp] *n.* **1.** палóска; пáсак **2.** *mil.* паласá, нашы́ўка

**striped** [straɪpt] *adj.* паласáты; **a striped shirt** кашýля ў пáскі

**stripling** [ˈstrɪplɪŋ] *n. dated, joc.* юнáк, падлéтак

**stripper** [ˈstrɪpə] *n.* стрыптызёр; стрыптызёрка

**striptease** [ˈstrɪptiːz] *n.* стрыпты́з

**strive** [straɪv] *v.* **(strove, striven** *or* **strived)** *fml* **1. (for/after)** старáцца, прыкладáць намагáнні; **strive for victory** змагáцца за перамóгу

**strive for smth.** імкну́цца дабі́цца чаго́-н. **2. (against/with)** змага́цца

**striven** [ˈstrɪvn] *p.p.* → **strive**

**strode** [strəʊd] *past* → **stride**[2]

**stroke**[1] [strəʊk] *n.* **1.** уда́р **2.** узма́х, мах; ход; **a stroke of luck** уда́ча; *It was a stroke of genius.* Гэта было геніяльна. **3.** штрых, мазо́к, ры́са; **finishing strokes** апо́шнія штрыхі́ **4.** бой гадзі́нніка; **on the stroke of three** ро́ўна ў тры (гадзі́ны) **5.** *med.* інсу́льт **6.** *sport* узма́х; грабо́к; **breast stroke** брас ♦ **at a single/one stroke** адны́м ма́хам; **not do a stroke (of work)** па́льцам не паварушы́ць; нічо́га не рабі́ць; **put smb. off his stroke** вы́біць каго́-н. з ры́тму

**stroke**[2] [strəʊk] *v.* гла́дзіць, пагла́джваць; ла́шчыць

**stroll**[1] [strəʊl] *n.* прагу́лка, прагуля́нка, шпа́цыр; **take a stroll** прагуля́цца

**stroll**[2] [strəʊl] *v.* хадзі́ць (*павольна*), прагу́львацца, шпацырава́ць

**stroller** [ˈstrəʊlə] *n.* бадзя́га; шпацыра́нт

**strong** [strɒŋ] *adj.* **1.** ду́жы; **a strong man** сіла́ч, асі́лак **2.** здаро́вы, мо́цны; **strong nerves** мо́цныя не́рвы; *I feel stronger today.* Я адчуваю сябе сёння лепш. **3.** трыва́лы; **strong walls** трыва́лыя сце́ны; **strong soil** цвёрдая гле́ба **4.** цвёрды, мо́цны; **a strong will** мо́цная во́ля **5.** мо́цны, магу́тны; **a strong king** магу́тны каро́ль; **have a strong hold upon/over smb.** мець мо́цны ўплы́ў на каго́-н.; **strong poison** мо́цная атру́та **6.** мо́цны (*у чым-н.*); **be strong in spelling** быць мо́цным у арфагра́фіі; пісаць гра́матна (*без арфаграфічных памылак*); *He is not strong in physics.* Ён слабак у фізіцы. **7.** глыбо́кі; **a strong mind** глыбо́кі ро́зум; **a strong memory** до́брая па́мяць **8.** мо́цны, пераканáўчы, ва́жкі; **a strong evidence** ва́жкі до́каз **9.** рашу́чы, энергі́чны, круты́; **strong measures** круты́я за́хады **10.** цвёрды, рашу́чы; **strong affection** мо́цная прыхі́льнасць; **a strong Democrat** адда́ны дэмакра́т; **have a strong inclination to do smth.** мо́цна хаце́ць што-н. зрабі́ць; **be strong for/against smth.** быць рашу́ча за/су́праць чаго́-н. **11.** энергі́чны, выра́зны (*пра стыль*); **strong language** непрысто́йныя сло́вы, ла́янка **12.** я́сны, дакла́дны, до́бра вы́значаны; **a strong family likeness** вялі́кае фамі́льнае падабе́нства; **a strong Welsh accent** мо́цны валі́йскі акцэ́нт **13.** мо́цны, во́стры, інтэнсі́ўны; **a strong smell** рэ́зкі пах, смуро́д (*непрыемны*); **strong cheese** во́стры сыр; **strong butter** гаркава́тае ма́сла; **a strong voice** гу́чны го́лас; **strong light** я́ркае святло́ **14.** неразве́дзены, мо́цны; **strong coffee** мо́цная ка́ва; **strong solution** насы́чаны раство́р; **strong drinks** мо́цныя спіртны́я напо́і **15.** цвёрды, усто́йлівы (*пра цэны*) **16.** *ling.* нерэдукава́ны; *This word is always used in its srtong form.* Гэтае слова ніколі не рэдукуецца. ♦ **the stronger sex** мужчы́нскі пол; **by the strong hand** сі́лаю; **strong meat** ≅ мо́цны арэшак; арэшак не па зуба́х; **have a strong stomach** быць таўстаску́рым; **as strong as a horse** ≅ здаро́вы як бык

**strong-arm** [ˈstrɒŋɑːm] *adj.* разлі́чаны на сі́лу; **strong-arm methods** гвалто́ўныя ме́тады, сілавы́я ме́тады

**strongbox** [ˈstrɒŋbɒks] *n.* сейф

**stronghold** [ˈstrɒŋhəʊld] *n.* **1.** цытадэ́ль, крэ́пасць **2.** цвярды́ня, апі́рышча, апо́ра

**strongly** [ˈstrɒŋli] *adv.* мо́цна, крэ́пка, рашу́ча; *I feel strongly that…* Я моцна адчуваю, што…

**strongman** [ˈstrɒŋmən] *n.* (*pl.*-**men**) **1.** дыкта́тар, дэ́спат **2.** асі́лак *(асабліва цыркавы)*

**strong-minded** [ˌstrɒŋˈmaɪndɪd] *adj.* рашу́чы, энергі́чны; разу́мны; самасто́йны ў ду́мцы

**strong room** [ˈstrɒŋrʊm] *n.* кладо́ўка; сейф (*для захавання каштоўнасцей у банку*)

**strong-willed** [ˌstrɒŋˈwɪld] *adj.* валявы́, рашу́чы; упа́рты

**strontium** [ˈstrɒntiəm] *n. chem.* стро́нцый; **strontium 90** стро́нцый 90 (*радыеактыўная форма*)

**stroppy** [ˈstrɒpi] *adj. BrE, infml* незгаво́рлівы, сварлі́вы, зва́длівы; плаксі́вы

**strove** [strəʊv] *past* → **strive**

**struck** [strʌk] *past, p.p.* → **strike**[3]

**structural** [ˈstrʌktʃərəl] *adj.* **1.** структу́рны; **structural geology** тэкто́ніка **2.** будаўні́чы, канструкты́ўны; **a structural engineer** інжыне́р-будаўні́к; **structural engineering** будаўні́чая тэ́хніка

**structuralism** [ˈstrʌktʃərəlɪzəm] *n.* структуралі́зм

**structuralist** [ˈstrʌktʃərəlɪst] *n.* структуралі́ст; **a structuralist approach** структуралісты́чны падыхо́д

**structural linguistics** [ˌstrʌktʃərəllɪŋˈgwɪstɪks] *n. ling.* структу́рная лінгві́стыка

**structure** [ˈstrʌktʃə] *n.* **1.** будо́ва, структу́ра; **grammatical structure of a language** граматы́чны лад мо́вы **2.** пабудо́ва, буды́нак; **a stately structure** ве́лічны буды́нак

**struggle**[1] [ˈstrʌgl] *n.* **1.** барацьба́; **a power struggle** барацьба́ за ўла́ду; **a mental struggle** душэ́ўная барацьба́; **a struggle for survival** барацьба́ за выжыва́нне; **at struggle** у барацьбе́ **2.** напру́жанасць; вы́сілак, намага́нне; **in the**

**death struggle** у агóніі; **give in without a struggle** здáцца без супраціўлéння

**struggle²** [ˈstrʌgl] *v.* **1.** змагáцца; **struggle for freedom** змагáцца за свабóду; **struggle to the last breath** змагáцца да канцá/да апóшняга дыхáння **2.** біцца, адбівáцца; **struggle in smb.'s arms** вырывáцца з чыíх-н. рук **3.** старáцца з усёй мóцы, рабíць намагáнні, вы́сілкі; **struggle to one's feet** з цяжкасцю ўставáць на нóгі; **struggle to succeed** намагáцца зрабíць пóспех **4.** прабівáцца; **struggle through the thicket** прабівáцца праз гушчáр; **struggle out of smth.** вы́рвацца адкýль-н.

**struggle on** [ˌstrʌglˈɒn] *phr. v.* працягвáць змагáцца з цяжкасцямі

**struggle along** [ˌstrʌgləˈlɒŋ] *phr. v.* = **struggle on**

**strum** [strʌm] *v.* бры́нкаць, тры́нкаць; **strum on the guitar** тры́нкаць на гітáры

**strung** [strʌŋ] *past, p.p.* → **string²**

**strung-up** [ˌstrʌŋˈʌp] *adj.* напрýжаны, узбýджаны, узрýшаны; *He gets very strung-up before exams.* Ён вельмі напружаны перад экзаменамі.

**strut¹** [strʌt] *n.* падпóрка, стóйка; нагá (*шасі самалёта*)

**strut²** [strʌt] *v.* хадзíць з вáжным, напы́шлівым відам; **strutting peacocks** напы́шлівыя паўлíны

**strychnine** [ˈstrɪkniːn] *n.* **1.** *bot.* ірвóтны кóрань **2.** стрыхнíн; **strychnine poisoning** атручэ́нне стрыхнíнам

**stub¹** [stʌb] *n.* **1.** пень, калóда **2.** аблóмак, аскабáлак; агры́зак (*алоўка*); акýрак **3.** карашóк (*квітка, чэка і да т.п.*); **fill in a cheque stub** запóўніць карашóк чэ́ка

**stub²** [stʌb] *v.* **1.** стýкнуцца аб нéшта цвёрдае; **stub one's toe against smth.** спатыкнýцца на што-н. **2.** выкарчóўваць з кóранем

**stub out** [ˌstʌbˈaʊt] *phr.v.* **: stub out a cigarette** тушы́ць акýрак

**stubble** [ˈstʌbl] *n.* **1.** іржы́шча, іржэ́ўнік **2.** карóтка абстры́жаныя валасы́; даўнó не гóленая барадá, шчэць, шчацíнне

**stubbly** [ˈstʌbli] *adj.* шчацíністы, калю́чы (*пра бараду*); **stubbly hair** валасы́ тырчкóм

**stubborn** [ˈstʌbən] *adj.* **1.** упáрты, зацяты, непадáтлівы **2.** упáрты, настóйлівы; **be stubborn in the defense** упáрта абараняцца ♦ **stubborn as a mule** упáрты як асёл

**stucco** [ˈstʌkəʊ] *n.* (*pl.* **stuccos** *or* **stuccoes**) **1.** тынк (*для аконных работ*) **2.** стукó (*будаўнічы матэрыял*)

**stuck¹** [stʌk] *adj.* **1.** загрáзлы, загрýзлы; *Help! I'm stuck in the mud!* Ратуйце! Я загруз! **2.** пракóлаты ♦ **scream like a stuck pig** вішчáць як рэ́заны парсю́к

**stuck²** [stʌk] *past, p.p.* → **stick²**; **get stuck** загра́знуць, засéсці ♦ **get stuck into smth.** акунýцца ў што-н. з галавóю

**stuck-up** [ˌstʌkˈʌp] *adj. infml* фанабэ́рысты; пагáрдлівы, ганары́сты, пыхлíвы

**stud** [stʌd] *n.* **1.** кнóпка, зáпінка **2.** цвік з вялíкай плéшкаю

**studded** [ˈstʌdɪd] *adj.* усы́паны, усéяны, упрыгóжаны; **a lake studded with small islands** вóзера, усéянае малéнькімі астравáмі

**student** [ˈstjuːdənt] *n.* **1.** студэ́нт; студэ́нтка; навучэ́нец; **a BA student** студэ́нт на атрымáнне ступéні бакалáўра; **a medical student** студэ́нт-мéдык; **a graduate student** аспірáнт; **a school student** вýчань сярэ́дняй шкóлы **2.** той, хто вывучáе што-н.; **a student of bird life** чалавéк, які́ вывучáе жыццё птýшак; арнітóлаг

**student loans** [ˌstjuːdəntˈləʊnz] *n.* сістэ́ма пазы́к для студэ́нтаў

**studentship** [ˈstjuːdəntʃɪp] *n. BrE* стыпéндыя

**student union** [ˌstjuːdəntˈjuːniən] *n.* студэ́нцкі клуб

**studied** [ˈstʌdid] *adj. fml* абдýманы (зáгадзя), наўмы́сны; **do smth. with studied casualness** рабíць што-н. з прытвóрнай абыякавасцю

**studio** [ˈstjuːdiəʊ] *n.* **1.** стýдыя, атэльé, майстэ́рня **2.** кінастýдыя, тэлестýдыя; **studio audience** гледачы́, які́х запрасíлі ў тэлестýдыю абó радыёстýдыю (*для перадачы іх апладысментаў, смеху і да т.п.*)

**studio flat** [ˌstjuːdiəʊˈflæt] *n.* аднапакаёвая кватэ́ра, аднапакаёўка

**studious** [ˈstjuːdiəs] *adj.* старáнны, руплíвы, дбáйны; **with studious attention** з вялíкай увáгай

**study¹** [ˈstʌdi] *n.* **1.** вывучэ́нне, даслéдаванне; **make a study of smth.** вывучáць што-н. **2.** *pl.* **studies** занятк і, навучáнне **3.** *pl.* **studies** навýка, галінá навýкі; **American studies** амерыканíстыка; **Belarusian studies** беларусíстыка **4.** кабінéт (*пакой для працы дома*)

**study²** [ˈstʌdi] *v.* **1.** вучы́ць, вучы́цца, вывучáць; **study to be a doctor** вучы́цца на лéкара; **study under a famous professor** вучы́цца ў знакамíтага прафéсара **2.** даслéдаваць, вывучáць; разгля́дваць, абдýмваць; **study the situation** абдýмваць сітуáцыю; **study smb.'s face** увáжліва сачы́ць за вы́разам чыйгó-н. твáру **3.** рыхтавáцца (*да чаго-н.*); **study for an exam** рыхтавáцца да экзáмену; **study for a bachelor degree in economics** рыхтавáцца, каб атрымáць ступéнь бакалáўра эканамíчных навýк

**stuff¹** [stʌf] *n.* **1.** *infml* рэ́чыва, матэрыя́л; *We'll see what stuff he's made of.* Мы паглядзім, што ён за чалавек. **2.** *infml* манáткі, нажы́ткі ♦ **do**

**one's stuff** рабíць сваю́ спрáву; **stuff and nonsense!** лухтá! глýпства!; **that's the stuff!** гэ́та што трэ́ба!

**stuff²** [stʌf] *v.* **1.** набівáць, запíхваць; *My head is stuffed with facts.* У мяне галава забіта фактамі; *She stuffed the child with sweets.* Яна накарміла дзіця цукеркамі **2.** набівáць, напíхваць чýчала **3.** фаршыравáць **4.** закладáць, забівáць; *My nose is stuffed up.* Мне залажыла нос.

**stuffing** [ˈstʌfɪŋ] *n.* **1.** фарш, начы́нка **2.** набíўка (*падушкі*) ♦ **knock/beat/take the stuffing out of smb.** вы́біць пы́ху з кагó-н., пастáвіць кагó-н. на мéсца

**stuffy** [ˈstʌfi] *adj.* **1.** дýшны, зáтхлы; **a stuffy room** дýшны пакóй **2.** *infml* нýдны, нецікáвы; **a stuffy book** нýдная кнíга **3.** залóжаны (*нос*)

**stultify** [ˈstʌltɪfaɪ] *v. fml* выстаўля́ць (*каго-н., што-н.*) у смéшным вы́глядзе; рабíць бескары́сным, бессэнсóўным; **stultify efforts to do smth.** звéсці да нуля́ намагáнні зрабíць што-н.

**stumble** [ˈstʌmbl] *v.* **1. (over/on)** спатыкáцца **2.** запінáцца; **stumble over words** запінáцца на слóвах **3.** вагáцца, хістáцца

**stumble across** [ˌstʌmbləˈkrɒs] *phr. v.* наткнýцца, натрáпіць

**stumbling block** [ˈstʌmblɪŋˌblɒk] *n.* **(to)** перашкóда, кáмень спатыкнéння

**stump¹** [stʌmp] *n.* **1.** пень, абрýбак; пянёк (*зуба*); недакýрак, акýрак **2.** імправізавáная трыбýна; **be on the stump** вéсці агітáцыю **3.** *joc.* нагá; **stir one's stumps** спяшáцца, варушы́цца

**stump²** [stʌmp] *v.* **1.** тóпаць, тýпаць, ця́жка ступáць, чыкільгáць **2.** *infml* азадáчваць, агарóшваць; *I'm stumped.* Я ў тупіку.

**stumpy** [ˈstʌmpi] *adj.* карóткі і тóўсты; каржакавáты, прысáдзісты

**stun** [stʌn] *v.* аглушáць, ашаламля́ць; *He was stunned by the news.* Яго ашаламіла навіна.

**stung** [stʌŋ] *past, p.p.* → **sting²**

**stunk** [stʌŋk] *past, p.p.* → **stink²**

**stunned** [stʌnd] *adj.* ачмурэ́лы, ашалóмлены

**stunner** [ˈstʌnə] *n. infml* цудóўны экзэмпля́р; незвычáйная прыгажýня; *She is a stunner for cakes.* Яна надзвычайна добра пячэ торты.

**stunning** [ˈstʌnɪŋ] *adj. infml* ашаламля́льны, дзівóсны, цудóўны; *What a stunning idea!* Якая цудоўная ідэя!

**stunt¹** [stʌnt] *n.* акрабаты́чны трук, фóкус

**stunt²** [stʌnt] *v.* затры́мліваць рост (*чалавека, расліны і да т.п.*)

**stunted** [ˈstʌntɪd] *adj.* чэ́злы; нягéглы

**stuntman** [ˈstʌntmən] *n.*( *pl.* **-men**) каскадзёр

**stuntwoman** [ˈstʌntwʊmən] *n.* (*pl.* **-women**) каскадзёрка

**stupefy** [ˈstjuːpɪfaɪ] *v.* **1.** прытупля́ць (*розум, пачуцці*); **be stupified with grief** аслупянéць ад гóра **2.** ашаламля́ць, здзіўля́ць, агалóмшваць

**stupendous** [stjuːˈpendəs] *adj.* дзівóсны, захапля́льны, надзвычáйны, ашаламля́льны; **stupendous achievements** каласáльныя дасягнéнні

**stupid** [ˈstjuːpɪd] *adj.* дурны́, неразýмны, тупы́; *What a stupid thing to do!* Якое глупства! ♦ **(as) stupid as a donkey** дурны́ як асёл

**stupidity** [stjuːˈpɪdəti] *n.* глýпства, тýпасць; дурнóта, бязглýздасць

**stupor** [ˈstjuːpə] *n.* **1.** *fml* здранцвéнне, анямéнне; змярцвéнне, адубéнне; **in a stupor of dismay** здранцвéлы ад стрáху **2.** *med.* стýпар

**sturdy** [ˈstɜːdi] *adj.* **1.** здарóвы, дýжы, мажны́, мóцны; **a sturdy chair** мóцнае крэ́сла; **a sturdy fellow** здаравя́к **2.** стóйкі, непахíсны, цвёрды; **a sturdy policy** рашýчая палíтыка

**sturgeon** [ˈstɜːdʒən] *n. zool.* асяцёр, асётр

**stutter** [ˈstʌtə] *v.* заікáцца, запінáцца; *He stuttered out an apology.* Ён заікаючыся прамармытаў прабачэнне.

**stutterer** [ˈstʌtərə] *n.* заíка

**St Valentine's Day** [sntˈvælɪntaɪnzˌdeɪ] *n.* дзень Святóга Валянцíна (*дзень усіх закаханых, 14 лютага*)

**sty** [staɪ] *n.* свінáрнік, хлеў; *The house was a perfect sty.* Дом быў якраз як свінарнік.

**sty(e)** [staɪ] *n. med.* ячмéнь (*на воку*)

**Stygian** [ˈstɪdʒiən] *adj. lit.* змрóчны, цёмны, пякéльны; **the Stygian darkness of the night** страшэ́нная цéмра

**style¹** [staɪl] *n.* **1.** стыль, спóсаб выражэ́ння, манéра; **lofty style** высóкі стыль; **the style of court** стыль судóвых папéр; **write good English style** пісáць на дóбрай англíйскай мóве; **a style of life** лад жыцця́ **2.** напрáмак, шкóла (*у мастацтве*); **the Byzantine style** візанты́йскі стыль **3.** густ, арыгінáльнасць; шык, бляск; **a woman of style** жанчы́на з гýстам **4.** фасóн, мóда; **a style setter** заканадáўца мóды; **in the latest style** па апóшняй мóдзе; **of all styles and sizes** усíх фасóнаў і памéраў **5.** *bot.* пéсцік (*кветкі*) ♦ **cramp smb.'s style** не даць камý-н. разгарнýцца; **live in grand style** жыць на шырóкую нагý

**style²** [staɪl] *v.* **1.** рабíць дызáйн, праектавáць, канструявáць **2.** шыць па мóдзе, увóдзіць у мóду **2.** *fml* тытулавáць, назывáць; *Should he be styled Mister or Colonel?* Як да яго звяртацца – містар ці палкоўнік?

**styling** [ˈstaɪlɪŋ] *n.* **1.** стылісты́чная пра́ўка **2.** сэ́нсавае адце́нне сло́ва або́ фра́зы; стыль **3.** мадэлі́раванне (*вопраткі, машын і да т.п.*), дыза́йн

**stylish** [ˈstaɪlɪʃ] *adj.* мо́дны, сты́льны, шыко́ўны; **stylish manners** вы́танчаныя мане́ры

**stylist** [ˈstaɪlɪst] *n.* **1.** стылі́ст; стылі́стка **2.** мадэлье́р; **a hair stylist** цыру́льнік-мадэлье́р

**stylistic** [staɪˈlɪstɪk] *adj.* стылісты́чны; **make a stylistic comparison** рабі́ць параўна́нне стылісты́чных сро́дкаў

**stylistically** [staɪˈlɪstɪkli] *adv.* стылісты́чна, з пу́нкту гле́джання стылі́стыкі; *Stylistically, these synonyms are different.* Гэтыя сінонімы адрозніваюцца стылістычна.

**stylistics** [staɪˈlɪstɪks] *n. ling.* стылі́стыка; **functional stylistics** функцыяна́льная стылі́стыка

**stylized,** *BrE* **-ised** [ˈstaɪlaɪzd] *adj.* стылізава́ны; **the highly stylized form of acting** высо́кастылізава́ная фо́рма акцёрства

**stymie** [ˈstaɪmi] *v.* **1.** *fml* ста́віць у безвыхо́днае стано́вішча, загања́ць у тупі́к; **stymie a plan** сарва́ць план; *Negotiations became stymied.* Перамовы зайшлі ў тупік. **2.** *sport* паста́віць супе́рніка ў стано́вішча «ста́ймі» (*гольф*)

**styptic** [ˈstɪptɪk] *n. med.* кроваспыня́льны сро́дак

**suave** [swɑːv] *adj.* пачці́вы, ве́тлівы, мя́ккі, даліка́тны; **suave manners** даліка́тныя мане́ры; **a suave speech** ліслі́вая размо́ва

**sub** [sʌb] *n. скар. ад* **: 1. (subordinate)** падпара́дкаваны, дру́гасны **2. (subscribtion)** падпі́ска **3.** *infml* **(substitute)** наме́снік **4. (subeditor)** рэда́ктар аддзе́ла (*у газеце, часопісе і да т.п.*) **5.** *infml* **(submarine)** падво́дная ло́дка

**subaltern** [ˈsʌbəltən] *n.* мало́дшы афіцэ́р (*у Вялікабрытаніі*)

**subarctic** [sʌbˈɑːktɪk] *adj.* субаркты́чны, перадпаля́рны; **subarctic temperatures** субаркты́чныя тэмперату́ры

**subcommittee** [ˈsʌbkəmɪti] *n.* падкамі́сія; падкамітэ́т; **the UN Disarmament Subcommittee** Падкамітэ́т Камі́сіі ААН па раззбрае́нні

**subconscious** [ˌsʌbˈkɒnʃəs] *adj. psychol.* падсвядо́мы; **a subconscious state** паўнепрыто́мны стан

**subconsciousness** [ˌsʌbˈkɒnʃəsnəs] *n. psychol.* падсвядо́масць

**subcontinent** [ˌsʌbˈkɒntɪnənt] *n.* субкантыне́нт; **the Indian subcontinent** Інды́йскі субкантыне́нт

**subculture** [ˈsʌbkʌltʃə] *n.* субкульту́ра; культу́ра яко́й-н. этні́чнай або́ сацыя́льнай гру́пы (*у рамках культуры пэўнага грамадства*)

**subdivide** [ˌsʌbdɪˈvaɪd] *v.* **(into)** падраздзяля́ць, раздзяля́ць на падкла́сы

**subdivision** [ˌsʌbdɪˈvɪʒn] *n.* **1.** падраздзяле́нне **2.** се́кцыя, пункт, падраздзе́л

**subdue** [səbˈdjuː] *v.* **1.** скара́ць, пакара́ць; падпарадко́ўваць; **subdue nature** пакара́ць пры́роду **2.** памянша́ць, змякча́ць; **subdue a fever** *med.* збіва́ць тэмперату́ру

**subdued** [səbˈdjuːd] *adj.* **1.** прыглу́шаны; **subdued lighting** мя́ккае святло́; **in a subdued voice** прыглу́шаным го́ласам **2.** падпара́дкаваны, прыгне́чаны; **a subdued mood** прыгне́чаны настро́й

**subeditor** [ˌsʌbˈedɪtə] *n.* **1.** рэда́ктар аддзе́ла (*у газеце, часопісе і да т.п.*) **2.** памо́чнік рэда́ктара

**subheading** [ˈsʌbhedɪŋ] *n.* падзагало́вак (*у газеце, часопісе і да т.п.*)

**subject**[1] [ˈsʌbdʒɪkt] *n.* **1.** тэ́ма, пыта́нне, прадме́т; **be on the subject** гавары́ць на тэ́му; **change the subject** змяні́ць тэ́му **2.** аб'е́кт; **the subject of an experiment** аб'е́кт эксперыме́нта **3.** *ling.* дзе́йнік **4.** падда́ны; падда́ная; **a British subject** падда́ная Брыта́ніі

**subject**[2] [ˈsʌbdʒɪkt] *adj.* **1.** падпара́дкаваны, падула́дны; **subject nations** несамасто́йныя краі́ны; **be subject to the laws** падпарадко́ўвацца зако́нам **2.** падвярга́цца; **be subject to changes** змяня́цца, быць зме́неным; **be subject to the influence of smb.** падпада́ць пад чый-н. уплы́ў; **subject to colds** схі́льны да прасту́ды **3.** зале́жаць; **be subject to the weather** зале́жаць ад надво́р'я

**subject**[3] [səbˈdʒekt] *v.* **1.** падпарадко́ўваць **2.** падвярга́ць; **subject smb. to criticism** крытыкава́ць каго́-н.; **be subjected to great hardships** зазнава́ць вялі́кія ця́жкасці

**subjection** [səbˈdʒekʃn] *n.* **1.** пакарэ́нне, падпара́дкаванне; **the subjection of the rebels** падаўле́нне паўста́ння **2.** зале́жнасць; **hold/keep smb. in subjection** трыма́ць каго́-н. у зале́жнасці

**subjective** [səbˈdʒektɪv] *adj.* **1.** суб'екты́ўны; **a subjective impression** асабі́стае, суб'екты́ўнае ўра́жанне **2.** *ling.* суб'е́ктны; **the subjective case** назо́ўны склон

**subjectively** [səbˈdʒektɪvli] *adv.* суб'екты́ўна; **subjectively perceived changes** зме́ны, які́я ўспрыма́юцца суб'екты́ўна

**subject matter** [ˈsʌbdʒɪktˌmætə] *n.* тэ́ма, прадме́т (*лекцыі, дагавору і да т.п.*)

**subjoin** [sʌbˈdʒɔɪn] *v.* **(to)** *fml* дадава́ць; прыпі́сваць у канцы́; **subjoin a postscript** прыпіса́ць пастскры́птум

**sub judice** [ˌsʌbˈdʒuːdəsi] *adj. law лацін.* на разгля́дзе суда́; яшчэ́ не вы́рашана (*пра справу*)
**subjugate** [ˈsʌbdʒugeɪt] *v. fml* пакара́ць, падпарадко́ўваць; зняво́льваць
**subjugation** [ˌsʌbdʒuˈgeɪʃn] *n. fml* пакарэ́нне; **the subjugation of territory** захо́п тэрыто́рыі
**subjunctive** [səbˈdʒʌŋktɪv] *n. ling.* **the subjunctive (mood)** умо́ўны лад
**sublease** [sʌbˈliːs] *v.* заключа́ць дагаво́р субарэ́нды, субарандава́ць
**sublet** [ˌsʌbˈlet] *v.* здава́ць у паднаём, перадава́ць у субарэ́нду; **sublet a room to a friend** здава́ць пако́й ся́бру (*у субарэнду*)
**sublimate** [ˈsʌblɪmeɪt] *v.* **1.** *psychol.* сублімава́ць **2.** *fml* узніма́ць, узно́сіць; рабіцца больш узнёслым
**sublime[1]** [səˈblaɪm] *n.* **: ♦ from the sublime to the ridiculous** ад вялі́кага да сме́шнага
**sublime[2]** [səˈblaɪm] *adj.* **1.** *lit.* узвы́шаны, высакаро́дны, узнёслы, ве́лічны **2.** *fml* ганары́сты; **sublime beauty** ве́лічная прыгажо́сць; **sublime indifference** хало́дная абыя́кавасць
**subliminal** [ˌsʌbˈlɪmɪnl] *adj. psychol.* падсвядо́мы; **subliminal mind** падсвядо́масць; **subliminal self** падсвядо́мае «я»; **subliminal techniques in advertising** рэкламава́нне з дапамо́гаю гіпно́зу
**submarine** [ˌsʌbməˈriːn] *n.* **1.** падво́дная ло́дка; **a missile-firing submarine** падво́дная ракéтная ло́дка **2.** *AmE* «субмары́на» (*сандвіч з мясам, рыбай і да т.п.*)
**submerge** [səbˈmɜːdʒ] *v.* **1.** апуска́ць; апуска́цца (*у ваду*) **2.** затапля́цца; **be submerged by paperwork** патану́ць у папе́рах
**submerged** [səbˈmɜːdʒd] *adj.* **1.** пакры́ты вадо́ю, зато́плены **2. : the submerged tenth** бядне́йшая ча́стка насе́льніцтва, па́рыі
**submersion** [səbˈmɜːʃn] *n.* затапле́нне, апуска́нне ў ваду́; *The bells have been found after a submersion of three centuries.* Званы знайшлі пасля таго, як яны прабылі пад вадою тры стагоддзі.
**submission** [səbˈmɪʃn] *n.* **1.** падпара́дкаванне, пако́рнасць, паслушэ́нства; **starve smb. into submission** пакара́ць каго́-н. го́ладам **2.** зая́ва, пада́ча (*дакументаў на разгляд*)
**submissive** [səbˈmɪsɪv] *adj.* пако́рлівы, паслухмя́ны; **be submissive to advice** прыслухо́ўвацца да пара́ды
**submit** [səbˈmɪt] *v.* **1. (to)** падпарадко́ўвацца, стаць пако́рным; **submit to discipline** падпарадко́ўвацца дысцыплі́не **2.** падава́ць на разгля́д; **submit an essay to one's teacher** адда́ць эсэ́ на праве́рку свайму́ наста́ўніку **3.** *law or fml* прапано́ўваць (*свой пункт гледжання*); *We submit that the charge is not proved.* Мы заяўляем, што абвінавачанне не даказана.
**subnormal** [ˌsʌbˈnɔːml] *adj.* **1.** ніжэ́й за но́рму; **a subnormal temperature** тэмперату́ра, ніжэ́йшая за но́рму **2.** *infml* не зусі́м разу́мны, разумо́ва адста́лы
**subordinate[1]** [səˈbɔːdɪnət] *adj.* **1.** падпара́дкаваны, паднача́лены; другара́дны, дру́гасны; **subordinate interests** другара́дныя інтарэ́сы **2.** *ling.* дада́ны (*сказ*)
**subordinate[2]** [səˈbɔːdɪneɪt] *v.* падпарадко́ўваць, паднача́льваць; **subordinate passions to reason** падпарадко́ўваць стра́сці ро́зуму
**suborn** [səˈbɔːn] *v. fml* падкупля́ць, дава́ць ха́бар; **suborn a witness** дава́ць ха́бар све́дку
**subplot** [ˈsʌbplɒt] *n.* пабо́чная сюжэ́тная лі́нія (*у творы*)
**subpoena** [səˈpiːnə] *n. law* по́зва, паве́стка (*у суд*)
**subscribe** [səbˈskraɪb] *v.* **(to) 1.** ахвярава́ць (*грошы*); **subscribe to a charity** ахвярава́ць у фонд міласэ́рнасці **2.** падпі́свацца (*на газету, часопіс і да т.п.*); **subscribe to smb.'s view** далуча́цца да чыйго́-н. по́гляду
**subscriber** [səbˈskraɪbə] *n.* **1.** падпі́счык; падпі́счыца (*на газету, часопіс і да т.п.*) **2.** абане́нт
**subscription** [səbˈskrɪpʃn] *n.* **1.** падпі́ска (*на газеты, часопісы і да т.п.*) **2.** абанеме́нт (*на канцэрт, спектакль і да т.п.*)
**subsequent** [ˈsʌbsɪkwənt] *adj. fml* насту́пны, пазне́йшы, дале́йшы; **on a subsequent visit** падча́с насту́пнага візі́ту; **subsequent to** усле́д, за, пасля́; **subsequent to its success…** усле́д за по́спехамі…
**subsequently** [ˈsʌbsɪkwəntli] *adv. fml* пасля́, по́тым, у дале́йшым; *They subsequently heard he had left the country.* А пасля яны пачулі, што ён пакінуў краіну.
**subserve** [səbˈsɜːv] *v. fml* садзе́йнічаць, быць кары́сным
**subservient** [səbˈsɜːviənt] *adj. derog.* уго́длівы, лісли́вы, рабале́пны; **subservient manners** лісли́выя мане́ры
**subside** [səbˈsaɪd] *v.* **1.** змянша́цца; *His anger quickly subsided.* Ён хутка супакоіўся. **2.** спада́ць (*пра ваду*), асяда́ць (*пра будынак*); *He subsided into a chair. joc.* Ён апусціўся ў крэсла.
**subsidence** [səbˈsaɪdns,ˈsʌbsɪdəns] *n.* падзе́нне, спад; асяда́нне; *The building was damaged by subsidence.* Будынак быў пашкоджаны пры асяданні.
**subsidiary[1]** [səbˈsɪdiəri] *n.* падкантро́льная кампа́нія

**subsidiary**[2] [səbˈsɪdiəri] *adj.* **1.** дапамо́жны; дру́гасны; дадатко́вы **2.** падкантро́льны (*пра кампанію, фірму*); **a subsidiary branch** філія́л (*банка*)

**subsidize,** *BrE* **-ise** [ˈsʌbsɪdaɪz] *v.* субсідзі́раваць; **a subsidized theatre** тэа́тр, які́ атры́млівае дата́цыі ад дзяржа́вы

**subsidy** [ˈsʌbsədi] *n.* субсі́дыя, фунда́цыя, дата́цыя; **increase/reduce the level of subsidy** павялі́чваць/скарача́ць паме́р субсі́дыі

**subsist** [səbˈsɪst] *v.* ледзь жыць; існава́ць; ліпе́ць; **subsist on vegetables and fruit** быць вегетарыя́нцам

**subsistence** [səbˈsɪstəns] *n.* існава́нне; **means of subsistence** сро́дкі для існава́ння; **a subsistence diet** гало́дны паёк; **a subsistence wage** пражы́тачны мі́німум

**subsistence level** [səbˈsɪstənsˌlevl] *n.* пражы́тачны мі́німум

**subsoil** [ˈsʌbsɔɪl] *n.* падгле́ба; не́дры; **subsoil assets** падзе́мнае бага́цце

**substance** [ˈsʌbstəns] *n.* **1.** рэ́чыва, матэ́рыя, субста́нцыя **2.** *fml* су́тнасць, сэнс; **in substance** па су́тнасці, факты́чна **3.** *fml* бага́цце; **a man of substance** *fml* замо́жны чалаве́к

**substantial** [səbˈstænʃl] *adj.* **1.** істо́тны, грунто́ўны; **substantial progress** зна́чны прагрэ́с **2.** вялі́кі, мо́цны, трыва́лы; **have a substantial meal** сы́тна паесці **3.** замо́жны **4.** *fml* рэа́льны; **a substantial being** рэа́льная істо́та

**substantially** [səbˈstænʃəli] *adv.* **1.** у галоўным, у агу́льным, па су́тнасці; *I substantially agree with you.* У агульным я з вамі згодны. **2.** грунто́ўна; **dine substantially** до́бра паесці

**substantiate** [səbˈstænʃieɪt] *v. fml* дака́зваць, абгрунто́ўваць (*патрабаванне, сцвярджэнне і да т.п.*)

**substation** [ˈsʌbsteɪʃn ] *n.* падста́нцыя

**substitute**[1] [ˈsʌbstɪtjuːt] *n.* **1.** наме́снік; засту́пнік; **as a substitute for smb.** заме́ст каго́-н. **2.** заме́на; падме́на; **a substitute player** запасны́ (ігро́к)

**substitute**[2] [ˈsʌbstɪtjuːt] *v.* **(for)** замяня́ць, замяшча́ць, падмяня́ць; **erase a word and substitute another** сце́рці сло́ва і ўста́віць і́ншае

**substitute teacher** [ˌsʌbstɪtjuːtˈtiːtʃə] *n.* наста́ўнік на заме́ну

**substitution** [ˌsʌbstɪˈtjuːʃn] *n.* **1.** заме́на, падме́на **2.** *ling.* падстано́ўка

**substratum** [ˈsʌbstrɑːtəm] *n.* (*pl.* **substrata**) **1.** ні́жні слой **2.** асно́ва, ба́зіс; **a substratum of truth in her story** асно́ва праўдзі́васці ў яе́ апавяда́нні

**substructure** [ˈsʌbstrʌktʃə] *n.* **1.** падму́рак, фунда́мент **2.** інфраструкту́ра

**subterfuge** [ˈsʌbtəfjuːdʒ] *n. fml* выкру́чванне, вы́крут, ухіле́нне; **resort to subterfuge** ужыва́ць уся́кія хі́трыкі

**subterranean** [ˌsʌbtəˈreɪniən] *adj. fml* **1.** падзе́мны; **a subterranean river** падзе́мная рака́ **2.** сакрэ́тны, та́йны; **subterranean diplomacy** та́йная дыпляма́тыя

**subtitle** [ˈsʌbtaɪtl] *n.* **1.** падзагало́вак **2.** *pl.* **subtitles** субты́тры (*пра кіно*)

**subtle** [ˈsʌtl] *adj.* **1.** то́нкі, далі́ка́тны; хі́трык; няўло́ўны; **a subtle strategy** хі́трая страт́эгія **2.** праніклі́вы, во́стры (*пра розум*); **a subtle critic** стро́гі кры́тык

**subtlety** [ˈsʌtlti] *n.* **1.** вы́танчанасць, далі́ка́тнасць **2.** во́стры жарт, до́сціп, дасці́пны вы́раз; то́нкасць (*розуму*) **3.** то́нкае разыхо́джанне; **subtleties in the pronunciation** адце́нні вымаўле́ння

**subtly** [ˈsʌtli] *adv.* то́нка, далі́ка́тна

**subtract** [səbˈtrækt] *v. math.* **(from)** аднімá́ць, адымá́ць

**subtraction** [səbˈtrækʃn] *n. math.* аднімá́нне

**subtropic(al)** [ˌsʌbˈtrɒpɪk(l)] *adj.* субтрапі́чны; **subtropical plants** субтрапі́чныя раслі́ны

**suburb** [ˈsʌbɜːb] *n.* пры́гарад, ускра́іна; прадме́сце; **London suburbs** пры́гарады Ло́ндана; **live in the suburbs** жыць у пры́гарадзе

**suburban** [səˈbɜːbən] *adj.* **1.** пры́гарадны **2.** абмежава́ны, правінцыя́льны; *He's such a suburban type.* Ён такі мешчанін.

**suburbanite** [səˈbɜːbənaɪt] *n. infml* жыха́р пры́гарада; правінцыя́л

**suburbia** [səˈbɜːbiə] *n. derog.* мяшча́нства, абыва́цельшчына; праві́нцыя

**subvention** [səbˈvenʃn] *n. fml* субсі́дыя, дата́цыя, дзяржа́ўная фіна́нсавая дапамо́га

**subversive** [səbˈvɜːsɪv] *adj.* падрыўны́; **be subversive of discipline** падрыва́ць дысцыплі́ну

**subvert** [səbˈvɜːt] *v. fml* **1.** разбура́ць, падрыва́ць (*веру, уладу і да т.п.*) **2.** паруша́ць (*закон*), падрыва́ць (*мараль*)

**subway** [ˈsʌbweɪ] *n.* **1.** *BrE* падзе́мны перахо́д; тунэ́ль **2.** *AmE* метро́; **travel by subway** е́хаць на метро́

**sub-zero** [ˌsʌbˈzɪərəʊ] *adj.* ніжэ́й нуля́; **sub-zero temperatures** мінусавы́я тэмперату́ры

**succeed** [səkˈsiːd] *v.* **1.** дабіва́цца, дасяга́ць мэ́ты; **succeed in one's career** зрабі́ць до́брую кар'е́ру **2.** квітне́ць, рабі́ць по́спех **3.** суме́ць зрабі́ць (*што-н.*); **succeed in doing smth.** здо́лець зрабі́ць што-н. **4.** быць пераемнікам, атры́мліваць у спа́дчыну; **succeed to the throne**

заня́ць трон (пасля́ ба́цькі) **5.** ісці́ (*за чым-н.*); *Day succeeded day.* Дзень ішоў за днём. ♦ **nothing succeeds like success** за по́спехам ідзе́ по́спех

**success** [sәk'ses] *n.* по́спех, уда́ча; **be a success** мець по́спех; **achieve success** дамагчы́ся по́спеху

**successful** [sәk'sesfәl] *adj.* паспяхо́вы; уда́лы, уда́чны; **be successful in doing smth.** суме́ць зрабіць што-н.

**succession** [sәk'seʃn] *n.* **1.** шэ́раг; **a succession of victories** шэ́раг перамо́г **2.** паслядо́ўнасць; **in succession** адзі́н за адны́м, чарадо́ю, за́пар, паслядо́ўна **3.** нашча́дкі, перае́мнікі; *Who is the first in succession to the throne?* Хто першы зойме трон?

**successive** [sәk'sesɪv] *adj.* насту́пны, чарго́вы; **with each successive day** з ко́жным насту́пным днём; *He made three successive attempts.* Ён зрабіў тры спробы запар.

**successor** [sәk'sesә] *n.* спа́дчыннік, спадкае́мец; спадкае́мніца; перае́мнік; насту́пнік (*у справе*); **appoint a worthy successor** назна́чыць дасто́йнага пераемніка

**success story** [sәk'ses,stɔːri] *n.* гісто́рыя чалаве́ка, яко́му пашанцава́ла

**succinct** [sәk'sɪŋkt] *adj. fml* каро́ткі, сці́слы, нядо́ўгі; **a succinct summary** каро́ткае рэзюмэ́

**succor** ['sʌkә] *AmE* = **succour**

**succour** ['sʌkә] *n. fml* дапамо́га; **bring succour to the sick** дапамага́ць хво́рым

**succulent** ['sʌkjәlәnt] *adj.* **1.** сакаві́ты, сакаўны́; **succulent roasted meat** сакаві́тае сма́жанае мя́са **2.** *bot.* сакаві́ты, мясі́сты

**succumb** [sә'kʌm] *v.* **(to)** паддава́цца, саступа́ць; **succumb to temptation** падда́цца спаку́се

**such**[1] [sʌtʃ] *adj.* **1.** такі́, падо́бны; **in such cases** у такі́х вы́падках; **in such a way** такі́м чына́м; **and such things** і да таго́ падо́бнае **2.** такі́, така́я, тако́е, такі́я; **such good music** така́я до́брая му́зыка; **such a long time ago** так даўно́; **such a pity!** такі́ жаль!; **such as** такі́ як; **such that** такі́ што

**such**[2] [sʌtʃ] *pron.* **1.** такі́; *Such was the result.* Такі быў вынік. **2.** той, такі́, така́я, тако́е, такі́я; **all such** такі́я лю́дзі; **and such** *infml* і да таго́ падо́бнае ♦ **such as it is** такі́ ўжо, які́ ёсць; *Treat to the cake, such as it is.* Частуйся пірагом такім, які ёсць.

**such-and-such** ['sʌtʃәnsʌtʃ] *pron. infml* такі́ вось; **on such-and-such a day** у такі́ і такі́ дзень

**suchlike** ['sʌtʃlaɪk] *pron.* падо́бны, такі́; **and suchlike** і да таго́ падо́бнае

**suck**[1] [sʌk] *n.* смакта́нне; **have/take a suck at smth.** смакта́ць што-н.

**suck**[2] [sʌk] *v.* ссаць, смакта́ць; **suck at smth.** патро́ху ссаць, пасмо́ктваць што-н.; **suck smb. in/into smth.** уця́гваць каго́-н. у што-н. ♦ **suck smb.'s brains** прысво́йваць чужы́я ду́мкі; **suck smb.'s blood** піць чыю́-н. кроў

**suck down** [,sʌk'daʊn] *phr.v.* засмо́ктваць, усмо́ктваць

**suck in** [,sʌk'ɪn] *phr.v.* усмо́ктваць ♦ **suck smth. in with one's mother's milk** усмо́ктваць што-н. з ма́тчыным малако́м

**suck up** [,sʌk'ʌp] *phr.v.* усмо́ктваць; **suck up to smb.** *infml* падлі́звацца да каго́-н.

**sucker** ['sʌkә] *n.* **1.** *bot.* гучо́к, па́растак, ато́жылак **2.** *infml* малакасо́с, сысу́н; блазню́к, бла́зан, прастачо́к

**sucking pig** ['sʌkɪŋ,pɪg] *n.* мало́чнае парася́, смакту́нчык

**suckle** ['sʌkl] *v.* **1.** карміць цы́цкаю; даваць цы́цку **2.** ссаць ма́тчыны гру́дзі

**suckling** ['sʌklɪŋ] *n.* грудно́е дзіця́/дзіцё; сысуно́к, немаўля́, немаўля́тка

**sucrose** ['suːkrәʊz] *n. chem.* цукро́за

**sudden** ['sʌdn] *adj.* рапто́ўны, неспадзява́ны, нечака́ны; **sudden death** рапто́ўная смерць ♦ **all of a sudden** рапто́ўна, зняна́цку, знячэ́ўку

**suddenly** ['sʌdәnli] *adv.* ра́птам, нечака́на, зняна́цку, неспадзе́ўкі

**suds** [sʌdz] *n. pl.* мы́льная вада́ або́ пе́на

**sue** [s(j)uː] *v.* прасле́даваць судо́м, распачына́ць працэ́с су́праць каго́-н.; **sue for a divorce** пада́ць на разво́д

**suede** [sweɪd] *n.* за́мша

**suet** ['s(j)uːɪt] *n.* здор, лой

**suffer** ['sʌfә] *v.* **1.** паку́таваць, му́чыцца; **suffer from headaches** паку́таваць ад галаўно́га бо́лю **2.** перано́сіць, цярпе́ць; **suffer defeat** цярпе́ць паражэ́нне **3.** не́сці стра́ты; пагарша́цца (*пра справы*)

**sufferance** ['sʌfәrәns] *n.* цярпе́нне, цярплі́васць; *He is here on sufferance.* Яго тут проста церпяць.

**sufferer** ['sʌfәrә] *n.* паку́тнік; паку́тніца; пацярпе́лы (*чалавек*)

**suffering** ['sʌfәrɪŋ] *n.* **1.** паку́та **2.** боль

**suffice** [sә'faɪs] *v. fml* быць дастатко́вым; хапа́ць; *Will this money suffice for the trip?* Хопіць гэтых грошай для падарожжа? ♦ **suffice (it) to say (that)…** дастатко́ва сказа́ць, што…

**sufficiency** [sә'fɪʃnsi] *n. fml* **(of)** даста́так, дастатко́васць; **sufficiency of fuel** дастатко́вы запа́с па́ліва

**sufficient** [səˈfɪʃnt] *adj.* **(for)** дастатко́вы; **in sufficient time in advance** за́гадзя
**suffix** [ˈsʌfɪks] *n. ling.* су́фікс
**suffocate** [ˈsʌfəkeɪt] *v.* душы́ць; душы́цца; задыха́цца; **suffocate with rage** задыха́цца ад раз’ю́шанасці; *He was suffocated in water.* Ён захлябнуўся ў вадзе.
**suffocating** [ˈsʌfəkeɪtɪŋ] *adj.* ду́шны, уду́шлівы; *It is suffocating in the room.* У пакоі душна.
**suffrage** [ˈsʌfrɪdʒ] *n.* вы́барчае пра́ва, пра́ва го́ласу; **universal suffrage** усеагу́льнае вы́барчае пра́ва
**suffragette** [ˌsʌfrəˈdʒet] *n.* суфражы́стка
**suffuse** [səˈfjuːz] *v. lit.* залів́аць (*святлом, слязамі*); пакрыва́ць (*румянцам*)
**sugar**[1] [ˈʃʊgə] *n.* **1.** цу́кар; **refined sugar** рафіна́д; **granulated sugar** цу́кар-пясо́к; **a lump of sugar** кава́лачак цу́кру **2.** лislі́васць
**sugar**[2] [ˈʃʊgə] *v.* **1.** падсало́джваць **2.** зацукро́ўваць; зацукро́ўвацца ♦ **sugar one’s words** гавары́ць ліслі́ва; **sugar the pill** падсаладзіць пілю́лю
**sugar basin** [ˈʃʊgəˌbeɪsn] *n.* цу́карніца
**sugar beet** [ˈʃʊgəˌbiːt] *n.* цукро́вы бура́к
**sugar cane** [ˈʃʊgəˌkeɪn ] *n.* цукро́вы трыснёг
**sugar-coated** [ˌʃʊgəˈkəʊtɪd] *adj.* пакры́ты цу́крам; **a sugar-coated promise** перабо́льшанае абяца́нне
**sugar daddy** [ˈʃʊgəˌdædi] *n. AmE, infml* бага́ты пажылы́ пакло́ннік; залётнік
**sugar refinery** [ˈʃʊgərɪˌfaɪnəri] *n.* (цукро́ва)рафіна́дны заво́д
**sugar tongs** [ˈʃʊgəˌtɒŋz] *n. pl.* шчы́пчыкі для цу́кру
**sugarworks** [ˈʃʊgəˌwɜːks] *n.* цукро́вы заво́д, цукрава́рня
**sugary** [ˈʃʊgəri] *adj.* цукро́вы; сало́дкі; **a sugary love scene** любо́ўная, саладжа́вая сцэ́на
**suggest** [səˈdʒest] *v.* **1.** прапано́ўваць; *I suggest* (*that*) *we leave at once.* Я прапаную зараз жа ад’ехаць. **2.** наво́дзіць на ду́мку, намяка́ць; *What are you suggesting by that?* Што ты хочаш гэтым сказаць?
**suggestible** [səˈdʒestəbl] *adj.* той, што паддае́цца ўнушэ́нню; *When I was young I was quite suggestible.* Калі я быў маладым, мяне можна было лёгка схіліць да чужой думкі.
**suggestion** [səˈdʒestʃən] *n.* **1.** прапано́ва, пара́да; **make a suggestion** рабіць, уно́сіць прапано́ву; **at/on smb.’s suggestion** па чыёй-н. прапано́ве **2.** намёк; **a suggestion of truth** до́ля пра́ўды **3.** *psychol.* унушэ́нне; **hypnotic suggestion** гіпно́з
**suggestive** [səˈdʒestɪv] *adj.* **1.** які́ наво́дзіць на ду́мку; **an aroma suggestive of spring flowers** во́дар, які́ нага́двае веснавы́я кве́ткі. *The book is very suggestive.* Гэтая кніга прымушае думаць. **2.** з намёкам (*непрыстойным*)
**suicidal** [ˌs(j)uːɪˈsaɪdl] *adj.* самагу́бны; пагі́бельны, забо́йны; **a suicidal tendency** ма́нія самагу́бства; **a suicidal policy** пагі́бельная палі́тыка
**suicide** [ˈs(j)uːɪsaɪd] *n.* **1.** самагу́бства; **commit suicide** скончыць самагу́бствам **2.** самазабо́йца, самагу́бца
**suit**[1] [s(j)uːt] *n.* касцю́м, гарніту́р; **a dress suit** фрак; **a three-piece suit** касцю́м-тро́йка ♦ **in one’s birthday suit** *joc.* у чым ма́ці нарадзі́ла
**suit**[2] [s(j)uːt] *n. law* іск, судо́вая спра́ва; **bring/fill a suit against smb.** прад’яўля́ць іск каму́-н.; **a criminal suit** крыміна́льная спра́ва
**suit**[3] [s(j)uːt] *v.* **1.** пасава́ць, быць да тва́ру **2.** падыхо́дзіць, адпавяда́ць, задавальня́ць; **suit yourself** *infml* рабі́, як хо́чаш; *They are well suited.* Яны добрая пара. **3.** прыстасо́ўваць; дапасо́ўваць; **suit the play to the audience** перайна́чваць п’есу пад густ гледачо́ў
**suit down** [ˌs(j)uːtˈdaʊn] *phr.v.* : ♦ **suit smb. down to the ground** *infml* задавальня́ць каго́-н.
**suitable** [ˈs(j)uːtəbl] *adj.* зру́чны, прыда́тны, адпаве́дны; **clothes suitable for everyday wear** адзе́нне на ко́жны дзень
**suitably** [ˈs(j)uːtəbli] *adv.* адпаве́дна; **answer suitably** адка́зваць уда́ла; **be suitably dressed** быць апрану́тым у адпаве́днасці з вы́падкам, надво́р’ем і да т.п.
**suitcase** [ˈs(j)uːtkeɪs] *n.* чамада́н (*невялікі*), чамада́нчык; куфэ́рак
**suite** [swiːt] *n.* **1.** набо́р, камплект; **a dining-room suite** гарніту́р мэ́блі для стало́вай **2.** ну́мар-люкс (*у гатэлі*) **3.** *mus.* сюі́та **4.** сві́та
**suited** [ˈs(j)uːtɪd] *adj.* **(to/for)** прыда́тны, кары́сны; *He is not suited to be a teacher*. Настаўнік з яго не атрымаецца.
**suitor** [ˈs(j)uːtə] *n.* пакло́ннік, кавале́р
**sulfur** [ˈsʌlfə] *AmE* = **sulphur**
**sulk** [sʌlk] *v. derog.* ду́цца, наду́цца; надзьму́цца, **sulk with smb.** злава́ць на каго́-н.
**sulky** [ˈsʌlki] *adj.* надзьму́ты; пану́ры, насу́плены; пахму́рны; **a sulky day** хму́рны дзень; **be sulky** наду́цца
**sullen** [ˈsʌlən] *adj. derog.* пану́ры, хму́рны; **a sullen grey sky** *lit.* пахму́рнае шэ́рае не́ба
**sully** [ˈsʌli] *v. fml* пля́міць, псава́ць (*рэпутацыю*)
**sulphur** [ˈsʌlfə] *n. chem.* се́ра, се́рка
**sulphuric** [sʌlˈfjʊərɪk] *adj. chem.* : **sulphuric acid** се́рная кіслата́
**sultan** [ˈsʌltən] *n.* султа́н
**sultana** [səlˈtɑːnə] *n.* разы́нка (*маленькая*), кішмі́ш

**sultry** [ˈsʌltri] *adj.* спякóтны, дýшны, гарáчы, пáрны (*пра надвор'е*); **a sultry smile** звáблівая ўсмéшка

**sum**[1] [sʌm] *n.* **1.** арыфметы́чная задáча; **do a sum** рашáць задáчу; **be good at sums** дóбра рашáць задáчы **2.** сýма, кóлькасць, падрахýнак; **the sum of what we've done** усё, што мы зрабілі ♦ **in sum** *fml* карацéй кáжучы

**sum**[2] [sʌm] *v.* складáць

**sum up** [ˌsʌmˈʌp] *phr.v.* падвóдзіць вы́нік, падсумóўваць; **sum smb./smth. up** рабíць высновы; **sum up strength** сабрáць сíлы ♦ **to sum up** карацéй кáжучы, адны́м слóвам

**summarize,** *BrE* **-ise** [ˈsʌməraɪz] *v.* падвóдзіць вы́нік, падсумóўваць, падагульня́ць

**summary**[1] [ˈsʌməri] *n.* сцíслы перакáз, рэзюмэ́; **news summary** звóдка навíн; **a two-page summary** рэзюмэ́ на дзве старóнкі; **in summary** на заканчэ́нне

**summary**[2] [ˈsʌməri] *adj.* **1.** *fml* сцíслы, карóткі **2.** безадклáдны; **summary dismissal** звальнéнне без адклáду

**summation** [sʌˈmeɪʃn] *n. fml* склáдванне, падсумóўванне

**summer** [ˈsʌmə] *n.* лéта; **in (the) summer** лéтам; **next summer** настýпным лéтам; **a summer cottage** дáчны дóмік ♦ **an Indian summer** ≅ бáбіна лéта

**summer bird** [ˈsʌməˌbɜːd] *n.* пералётная птýшка

**summerhouse** [ˈsʌməhaʊs] *n.* альтáнка

**summer lightning** [ˌsʌməˈlaɪtnɪŋ] *n.* зарнíца, бліскавíца

**summer sausage** [ˌsʌməˈsɒsɪdʒ] *n.* сыравя́леная кілбасá/каўбасá

**summer school** [ˈsʌməˌskuːl] *n.* курс лéкцый ва ўніверсітэ́це (*падчас летніх канікул*)

**summertime** [ˈsʌmətaɪm] *n.* лéта; лéтні час (*калі гадзіннік пераводзіцца на гадзіну ўперад*); **in (the) summertime** лéтам, у лéтні час

**summing-up** [ˌsʌmɪŋˈʌp] *n. law* заклю́чная прамóва суддзí

**summit** [ˈsʌmɪt] *n.* **1.** вяршы́ня; **the summit of my ambitions** мяжá маíх імкнéнняў **2.** сáміт, сустрэ́ча на вышэ́йшым узрóўні; **summit talks** перамóвы на вышэ́йшым узрóўні

**summon** [ˈsʌmən] *v.* склікáць; выклікáць (*у суд*); **summon (up) one's courage** набрáцца хрáбрасці

**summon up** [ˌsʌmənˈʌp] *phr.v.* сабірáць, мабілізавáць (*сілы, здольнасці*); **summon up one's thoughts** сабрáцца з дýмкамі

**summons** [ˈsʌmənz] *n. law* пóзва (*у суд*); **serve summons on smb.** выклікáць кагó-н. у суд

**sumptuous** [ˈsʌmptʃuəs] *adj. fml* дарагí, пы́шны, раскóшны; **a sumptuous feast** пы́шны баль

**sun**[1] [sʌn] *n.* сóнца; **in the sun** на сóнцы ♦ **everything under the sun** усё на гэ́тым свéце; **get up/go to bed with the sun** уставáць/клáсціся рáна

**sun**[2] [sʌn] *v.* грэць на сóнцы; **sun oneself** грэ́цца на сóнцы, загарáць

**Sun.** (*пісьмовае скар. ад* **Sunday**) нядзéля

**sunback** [ˈsʌnbæk] *adj.* з глыбóкім вы́разам на спíне

**sun-baked** [ˈsʌnbeɪkt] *adj.* вы́сушаны на сóнцы; сухí

**sunbath** [ˈsʌnbɑːθ] *n.* сóнечная вáнна

**sunbathe** [ˈsʌnbeɪð] *v.* загарáць; прымáць сóнечныя вáнны

**sunbeam** [ˈsʌnbiːm] *n.* сóнечны прамéнь

**sunblind** [ˈsʌnblaɪnd] *n.* тэнт, маркíза (*навес*)

**sunburn** [ˈsʌnbɜːn] *n.* загáр

**sunburned, sunburnt** [ˈsʌnbɜːnd, ˈsʌnbɜːnt] *adj.* загарэ́лы; **sunburnt shoulders** апáленыя плéчы

**sundae** [ˈsʌndeɪ] *n.* сметанкóвае марóжанае з сірóпам, фрýктамі абó арэ́хамі

**Sunday** [ˈsʌndeɪ] *n.* нядзéля; **on Sunday** у нядзéлю ♦ **a month of Sundays** вялíкі прамéжак чáсу; **your Sunday best** *infml* **:** *Go to the party in your Sunday best.* Апраніся па-святочнаму**.**

**Sunday school** [ˈsʌndiˌskuːl] *n.* нядзéльная царкóўная шкóла ♦ **Sunday school truth** прапіснáя íсціна

**sunder** [ˈsʌndə] *v. fml or lit.* **(from)** разлучáць, раздзяля́ць; *Nothing can sunder our friendship.* Нішто не можа разбіць наша сяброўства.

**sundial** [ˈsʌndaɪəl] *n.* сóнечны гадзíннік

**sundown** [ˈsʌndaʊn] *n.* зáхад сóнца; **at sundown** на зáхадзе сóнца

**sundrenched** [ˈsʌndrentʃt] *adj.* залíты сóнцам; **sundrenched beaches** сóнечныя пля́жы

**sundress** [ˈsʌndres] *n.* сарафáн, адкры́тая сукéнка

**sundries** [ˈsʌndriz] *n. pl.* усё ўсяля́кае; *She spent a lot of money on sundries.* Яна патраціла шмат грошай на ўсякія рэчы.

**sundry** [ˈsʌndri] *adj. fml* рóзны; уся́кі, усяля́кі ♦ **all and sundry** *infml* усé да аднагó

**sunflower** [ˈsʌnflaʊə] *n.* сланéчнік; **sunflower oil** алéй; **sunflower seeds** сéмачкі/сéмечкі; **the Sunflower State** *joc.* «Сланéчнікавы штат» (*назва штата Канзас, ЗША*)

**sung** [sʌŋ] *p.p.* → **sing**

**sun-glasses** [ˈsʌnˌglɑːsɪz] *n. pl.* сóнечныя акуля́ры

**sunhat** [ˈsʌnhæt] *n.* шыракапóлы капялю́ш

**sunk** [sʌŋk] *p.p.* → **sink**[2]

**sunken** [ˈsʌŋkən] *adj.* **1.** затанýлы, патанýлы (*карабель*) **2.** запáлы (*пра шчокі, вочы і да т.п.*)

**sunless** [ˈsʌnləs] *adj.* цёмны; пахмýрны; цьмя́ны; **a sunless room** цёмны пакóй; **a sunless smile** пахмýрная ўсмéшка

**sunlight** [ˈsʌnlaɪt] *n.* сóнечнае святлó; **in the sunlight** на сóнцы

**sunlit** [ˈsʌnlɪt] *adj.* асвéчаны абó залíты сóнцам

**sunny** [ˈsʌni] *adj.* **1.** сóнечны; **a sunny day** сóнечны дзень **2.** рáдасны, вясёлы; **a sunny smile** шчаслíвая ўсмéшка ♦ **look on the sunny side of things** быць аптымíстам; **on the sunny side of thirty** маладзéй за трыццаць

**sunny-side up** [ˌsʌnisaɪdˈʌp] *adj. AmE* засмáжаны тóлькі з аднáго бóку; **sunny-side up eggs** яéчня

**sunray** [ˈsʌnreɪ] *n.* **1.** сóнечны прамéнь **2.** *pl.* **sunrays** штýчныя ультрафіялéтавыя прамянí; **sun-ray treatment** лячэ́нне ўльтрафіялéтавымі прамяня́мі

**sunrise** [ˈsʌnraɪz] *n.* узыхóд сóнца; зóлак, світáнак, дóсвітак

**sunroof** [ˈsʌnruːf] *n.* плóскі дах абó платфóрма для прыня́цця сóнечных вáннаў (*у санаторыі*)

**sunscreen** [ˈsʌnskriːn] *n.* крэм абó ласьён ад загáру

**sunset** [ˈsʌnset] *n.* зáхад сóнца; **at sunset** на зáхадзе сóнца; **between sunset and sunset** ад зáхаду да зáхаду

**sunshade** [ˈsʌnʃeɪd] *n.* **1.** парасóн (*ад сонца*) **2.** навéс, тэнт, маркíза (*над вітрынаю*)

**sunshine** [ˈsʌnʃaɪn] *n.* **1.** сóнечнае святлó; **in the sunshine** на сóнцы **2.** *BrE, infml* сóнейка, рáдасць (*у звароту*); *Hello, sunshine!* Прывітанне, маё сонейка!

**Sunshine State** [ˈsʌnʃaɪnˌsteɪt] *n. infml* **the Sunshine State** «Сóнечны штат» (*назва штатаў Флорыда, Паўднёвая Дакота, ЗША*)

**sunspot** [ˈsʌnspɒt] *n.* **1.** *astron.* пля́ма на сóнцы **2.** вяснýшка; *pl.* **sunspots** рабацíнне

**sunstroke** [ˈsʌnstrəʊk] *n.* сóнечны ўдар

**suntan** [ˈsʌntæn] *n.* загáр; **get a suntan** загарэ́ць; **suntan lotion** ласьён для загáру

**Suomi** [ˈsuːəmi] *n.* **1.** фíны **2.** фíнская мóва

**super** [ˈs(j)uːpə] *adj. infml* цудóўны, надзвычáйны; *She is a super cook.* Яна цудоўна гатуе.

**superabundance** [ˌs(j)uːpərəˈbʌndəns] *n. fml* лíшак (*чаго-н.*), празмéрнасць; **a year of superabundance** год дастáтку

**superabundant** [ˌs(j)uːpərəˈbʌndənt] *adj. fml* лíшні, празмéрны; **a superabundant population** перанасялéнне

**superannuate** [ˌs(j)uːpərˈænjueɪt] *v. fml* звальня́ць па ўзрóсце, перавóдзіць на пéнсію

**superb** [s(j)uːˈpɜːb] *adj.* цудóўны, надзвычáйны, выдáтны; **superb intellect** высóкі інтэлéкт

**supercilious** [ˌs(j)uːpəˈsɪliəs] *adj. derog.* высакамéрны, пагáрдлівы, фанабэ́рлівы, фанабэ́рысты, пыхлíвы

**superconductivity** [ˌs(j)uːpəˌkɒndʌkˈtɪvəti] *n. phys.* звышправóднасць

**super-duper** [ˌs(j)uːpəˈduːpə] *adj. infml* цудóўны, надзвычáйны, ашаламля́льны

**super-ego** [ˌs(j)uːpərˈiːgəʊ] *n. psychol.* звыш-я́

**superficial** [ˌs(j)uːpəˈfɪʃl] *adj.* **1.** неглыбóкі; **a superficial wound** неглыбóкая рáна **2.** павярхóўны, несур’ёзны; **superficial knowledge** неглыбóкія вéды; **a superficial glance** бéглы пóзірк **3.** знéшні; **a superficial similarity** уя́ўнае падабéнства

**superfine** [ˌs(j)uːpəˈfaɪn] *adj.* вышэ́йшага гатýнку; вéльмі вы́танчаны, элегáнтны; **superfine silk** шоўк высóкага гатýнку; **superfine wit** вы́танчаны рóзум

**superfluity** [ˌs(j)uːpəˈfluːəti] *n. fml* **1.** лíшак, празмéрнасць; **a superfluity of words** мнóства лíшніх слоў; **have smth. in superfluity** мець чагó-н. замнóга

**superfluous** [s(j)uːˈpɜːfluəs] *adj.* лíшні, непатрэ́бны; *That remark was superfluous.* Тая заўвага была лішняй.

**superhuman** [ˌs(j)uːpəˈhjuːmən] *adj.* звышчалавéчы; **superhuman beings** бесцялéсныя істóты; **superhuman powers** звышнатурáльныя сíлы

**superimpose** [ˌs(j)uːpərɪmˈpəʊz] *v.* **(on)** наклáдваць (*што-н. на што-н.*); **superimpose an English commentary on the original soundtrack** наклáдваць англíйскі каментáр на арыгінáл (*пра гукавую дарожку*)

**superintend** [ˌs(j)uːpərɪnˈtend] *v. fml* кіравáць, назірáць

**superintendent** [ˌs(j)uːpərɪnˈtendənt] *n.* **1.** кіраўнíк, загáдчык; кантралёр **2.** суперінтэндáнт (*старшы паліцэйскі чын у Вялікабрытаніі*)

**superior[1]** [s(j)uːˈpɪəriə] *n.* **1.** стáршы, начáльнік **2.** *relig.* **: the Father/Mother Superior** ігýмен; ігýмення **3.** які́ перавышáе, перасягáе; *You are my superior in ability.* Ты больш здольны, чым я.

**superior[2]** [s(j)uːˈpɪəriə] *adj.* **1.** лéпшы; бóльшы; высакая́касны; **be superior to smth./in smth.** быць лéпшым чым/за што-н.; *They had superior qualities.* Яны валодалі цудоўнымі якасцямі. **2. (to)** стáршы, вышэ́йшы (*паводле пасады, чыну і да т.п.*) **3.** *fml* вéрхні, размéшчаны вышэ́й; **superior planets** вéрхнія планéты ♦ **rise superior to temptation** не паддавáцца спакýсе

**superiority** [s(j)uːˌpɪəriˈɒrəti] *n.* перава́га; старшы́нства; **have superiority in smth. over smb.** мець перава́гу ў чым-н. над кім-н.; **superiority complex** *psychol.* пачуццё перава́гі, вялі́кае самаўзвышэ́нне

**superlative** [s(j)uːˈpɜːlətɪv] *adj.* **1.** надзвыча́йны, цудо́ўны; найвышэ́йшы, найвялі́кшы; **superlative wisdom** вялі́кая му́драсць **2. : the superlative degree** *ling.* найвышэ́йшая ступе́нь параўна́ння (*прыметніка і прыслоўя*)

**superlatively** [s(j)uːˈpɜːlətɪvli] *adv.* у вышэ́йшай ступе́ні; *She plays the mandolin superlatively well.* Яна іграе на мандаліне надзвычай добра.

**superman** [ˈs(j)uːpəmən] *n.* (*pl.* **-men**) зверхчалаве́к, суперме́н; *He is a superman in mental faculties.* У яго надзвычайныя разумовыя здольнасці.

**supermarket** [ˈs(j)uːpəmɑːkɪt] *n.* суперма́ркет, універса́м, вялі́кі магазі́н з самаабслуго́ўваннем

**supermodel** [ˈs(j)uːpəmɒdl] *n.* супермадэ́ль

**supernatural** [ˌs(j)uːpəˈnætʃərəl] *adj.* незвыча́йны, звышнатура́льны; **a supernatural being** звышнатура́льная істо́та

**superpower** [ˈs(j)uːpəˌpaʊə] *n.* звышдзяржа́ва; сíла, яка́я не ма́е сабе́ ро́ўных; **a superpower summit** са́міт звышдзяржа́ў

**superscript** [ˌs(j)uːpəˈskrɪpt] *v.* надпі́сваць, рабі́ць на́дпіс зве́рху

**supersede** [ˌs(j)uːpəˈsiːd] *v.* замяня́ць, выцясня́ць; **supersede an old machine by a new one** замяні́ць стару́ю машы́ну на но́вую

**supersonic** [ˌs(j)uːpəˈsɒnɪk] *adj.* звышгукавы́, ультрагукавы́; **a supersonic aircraft** звышгукавы́ самалёт

**superstar** [ˈs(j)uːpəstɑː] *n.* зо́рка пе́ршай велічыні́, свяці́ла (*пра чалавека*)

**superstitions** [ˌs(j)uːpəˈstɪʃnz] *n. pl.* забабо́ны, пры́мхі; **overcome one's superstitions** пазбаўля́цца пры́мхаў

**superstitious** [ˌs(j)uːpəˈstɪʃəs] *adj.* забабо́нны, прымхлі́вы; **superstitious beliefs** забабо́ны, пры́мхі

**superstore** [ˈs(j)uːpəstɔː] *n.* гіга́нцкі ўніверма́г

**superstructure** [ˈs(j)uːpəstrʌktʃə] *n.* **1.** надбудо́ва, ча́стка буды́нка вышэ́й падму́рка **2.** *philos.* надбудо́ва

**supervene** [ˌs(j)uːpəˈviːn] *n. fml* ісці́ за; вынікá́ць; *New conditions supervened.* Паўсталі новыя абставіны.

**supervise** [ˈs(j)uːpəvaɪz] *v.* кантралява́ць; кірава́ць; нагляда́ць за (*чым-н., кім-н.*)

**supervision** [ˌs(j)uːpəˈvɪʒn] *n.* нагля́д, назіра́нне, кіраўні́цтва; **under the supervision (of)** пад кіраўні́цтвам; у распараджэ́нні (*каго-н.*)

**supervisor** [ˈs(j)uːpəvaɪzə] *n.* **1.** нагля́дчык **2.** інспе́ктар, кантралёр **3.** кіраўні́к (*навуковы*)

**supervisory** [ˌs(j)uːpəˈvaɪzəri] *adj.* кантро́льны; які́ ажыццяўля́е кантро́ль; **a supervisory body** кантро́льны о́рган; **a supervisory radio-station** кантро́льная радыёста́нцыя

**supine** [ˈs(j)uːpaɪn] *adj. fml* **1.** які́ ляжы́ць дагары́; **a supine position** *med.* ляжа́чы стан **2.** ляні́вы, абыя́кавы, бяздзе́йны

**supper** [ˈsʌpə] *n.* **1.** вячэ́ра; **have supper** вячэ́раць; **at/over supper** за вячэ́раю **2. : the Last Supper** *relig.* Та́йная вячэ́ра; **the Supper** *relig.* прычашчэ́нне, прыча́сце, каму́нія (*у каталікоў*)

**suppertime** [ˈsʌpətaɪm] *n.* час вячэ́ры

**supplant** [səˈplɑːnt] *v. fml* выцясня́ць; выжыва́ць (*каго-н., што-н.*); *Buses are supplanting trams in our town.* Аўтобусы выцясняюць трамваі ў нашым горадзе.

**supple** [ˈsʌpl] *adj.* гі́бкі; гну́ткі; **supple leather** мя́ккая ску́ра; **a supple mind** гі́бкі ро́зум

**supplement**[1] [ˈsʌplɪmənt] *n.* **1.** дада́так; **a colour supplement** каляро́вае аздабле́нне (*у газеце, часопісе і да т.п.*) **2.** надба́ўка; **a cost of living supplement** надба́ўка на рост ко́шту жыцця́; **a £10 supplement for a single room** надба́ўка 10 фу́нтаў за аднаме́сны ну́мар

**supplement**[2] [ˈsʌplɪment] *v.* **(with)** дапаўня́ць, дадава́ць, уключа́ць; *The text is supplemented with a glossary.* Тэкст суправаджаецца гласарыем.

**supplementary** [ˌsʌplɪˈmentri] *adj.* дадатко́вы; **supplementary fertilizer** падко́рмка

**supplementary benefit** [ˌsʌplɪmentriˈbenɪfɪt] *n.* *BrE* грашо́вая дапамо́га бе́дным

**supply**[1] [səˈplaɪ] *n.* **1.** забеспячэ́нне; дастá́ўка, пастá́ўка; **the water sypply** водазабеспячэ́нне; **the supply of provisions** пастá́ўка праду́ктаў **2.** *часта pl.* **supplies** запа́с; прыпа́сы; **a good supply of literature** до́бры вы́бар літарату́ры; **food supplies** запа́сы харчо́ў; **labour supplies** працо́ўныя рэзе́рвы; **office supplies** канцыля́рскія тава́ры ♦ **be in short supply** быць дэфіцы́тным

**supply**[2] [səˈplaɪ] *v.* **1.** забяспе́чваць **2.** дастаўля́ць, дава́ць, пастаўля́ць; **supply proofs** дава́ць до́казы; **supply services** рабі́ць паслу́гі **3.** дапаўня́ць, пакрыва́ць (*недахопы*), задавальня́ць (*патрэбы*)

**supply and demand** [səˌplaɪəndɪˈmɑːnd] *n. econ.* по́пыт і прапано́ва

**supply teacher** [səˈplaɪˌtiːtʃə] *n.* настá́ўнік, які́ часо́ва замяшча́е і́ншага настá́ўніка

**syntagmatic** [ˌsɪntægˈmætɪk] *adj. ling.* сінтагматы́чны; **syntagmatic relations** сінтагматы́чныя адно́сіны

**syntax** [ˈsɪntæks] *n. ling.* сі́нтаксіс; **the syntax of a text** сі́нтаксіс тэ́ксту

**syntheses** [ˈsɪnθəsiːz] *pl.* → **synthesis**

**synthesis** [ˈsɪnθəsɪs] *n.* (*pl.* **syntheses**) **1.** сі́нтэз; **produce smth. by synthesis** вырабля́ць што-н. з дапамо́гай сі́нтэзу **2.** спалучэнне, абагульне́нне; *Her novels are an odd synthesis of English reserve and Welsh emotionalism.* Яе раманы – незвычайнае спалучэнне англійскай стрыманасці і валійскай эмацыянальнасці.

**synthesize,** *BrE* **-ise** [ˈsɪnθəsaɪz] *v.* шту́чна вырабля́ць, сінтэзава́ць

**synthesizer,** *BrE* **-iser** [ˈsɪnθəsaɪzə] *n.* сінтэза́тар

**synthetic** [sɪnˈθetɪk] *adj.* **1.** шту́чны; сінтэты́чны; **synthetic diamonds** шту́чныя дыяме́нты; **synthetic rubber** сінтэты́чны каўчу́к **2.** ко́мплексны **3.** прытво́рны, напускны́; **synthetic friendliness** няшчы́рая дружалю́бнасць **4.** *ling.* сінтэты́чны

**syphilis** [ˈsɪfɪlɪs] *n. med.* сі́філіс

**syphon** [ˈsaɪfn] *n.* = **siphon**

**Syrian**[1] [ˈsɪriən] *n.* **1.** сіры́ец; сіры́йка; **the Sypians** сіры́йцы **2.** сіры́йская мо́ва

**Syrian**[2] [ˈsɪriən] *adj.* сіры́йскі

**syringa** [sɪˈrɪŋgə] *n. bot.* **1.** бэз звыча́йны **2.** язмі́н садо́вы

**syringe**[1] [sɪˈrɪndʒ] *n.* шпрыц, спрынцо́ўка; **a hypodermic syringe** шпрыц для падску́рнага ўпы́рсквання; **a garden syringe** садо́вы апы́рсквальнік

**syringe**[2] [sɪˈrɪndʒ] *v.* спрынцава́ць, упы́рскваць; **syringe a wound** прамыва́ць ра́ну спрынцо́ўкай

**syrup** [ˈsɪrəp] *n.* **1.** сіро́п; **cough syrup** сіро́п ад ка́шлю; **pears in syrup** гру́шы ў сіро́пе **2.** ачы́шчаная па́така; **golden syrup** све́тлая па́така

**syrupy** [ˈsɪrəpi] *adj.* **1.** лі́пкі, густы́ **2.** *derog.* саладжа́вы, пры́кры; *It was a syrupy love-story.* Гэта было сентыментальнае апавяданне пра каханне.

**system** [ˈsɪstəm] *n.* **1.** сістэ́ма; спо́саб, ме́тад; **a good system of teaching** до́брая сістэ́ма навуча́ння; *His work lacks system.* У яго рабоце не хапае сістэмы. **2.** аргані́зм; *The poison has passed into his system.* У яго арганізм трапіла атрута. **3.** лад, устро́йства; **a political system** дзяржа́ўны лад, палíты́чны лад **4.** класіфіка́цыя, сістэ́ма; **the system of units** *phys.* сістэ́ма вымярэ́нняў; **the natural system** *chem.* перыяды́чная сістэ́ма элеме́нтаў; **the metric system** метры́чная сістэ́ма; **a system of philosophy** філасо́фская сістэ́ма **5.** се́тка (*дарог, труб і да т.п.*); **a nervous system** нерво́вая сістэ́ма; **a telephone system** тэлефо́нная се́тка ♦ **get smth. out of one's system** *infml* вы́весці што-н. з аргані́зма; пазба́віцца ад яко́га-н. пачуцця́; *I must get her out of my system.* Я павінен выкінуць яе з галавы і з сэрца.

**systematic** [ˌsɪstəˈmætɪk] *adj.* сістэматы́чны; **a systematic error** сістэматы́чная памы́лка; **be systematic in one's work** працава́ць сістэматы́чна

**systematize,** *BrE* **-ise** [ˈsɪstəmətaɪz] *v.* сістэматызава́ць, прыво́дзіць у сістэ́му; *We must systematize our accounts.* Мы павінны прывесці нашы рахункі ў сістэму.

**systemic** [sɪsˈtemɪk] *adj.* **1.** сістэматы́чны, які́ адно́сіцца да ўсяго́ аргані́зма **2.** *anat.* саматы́чны; які́ ўздзе́йнічае фізіялагі́чна

**systems analysis** [ˈsɪstəmzəˌnælɪsɪs] *n.* сістэ́мны аналіз (*аналіз арганізацыі і функцыянавання сістэм*)

# Tt

**T, t** [tiː] *n.* *20-я літара англійскага алфавіта* ♦ **to a T/tee** *infml* зусі́м дакла́дна; якра́з; кро́пля ў кро́плю

**ta** [tɑː] *interj. BrE, infml* дзя́куй; **say ta** дзя́каваць; *Not that he said so much as a ta.* Ён нават і дзякуй не сказаў.

**tab** [tæb] *n.* **1.** ве́шалка; нашы́ўка; пятлі́ца (*на каўняры*) **2.** раху́нак, чэк; **pick up the tab** заплаці́ць па раху́нку (*у рэстаране*); узя́ць выда́ткі на сябе́ ♦ **keep close tabs on smth./smb.** *infml* сачы́ць за чым-н./кім-н.

**tabby** [ˈtæbi] *n.* кот (*паласаты*)

**tabernacle** [ˈtæbənækl] *n.* **1.** шацёр, пала́тка, шала́ш **2.** *relig.* мале́льня, малітоўны дом; **a Mormon tabernacle** мале́льня мармо́наў

**table** [ˈteɪbl] *n.* **1.** стол; **lay/set the table** накрыва́ць на стол **2.** ядá, прыём е́жы; **at table** за стало́м, за ядо́ю **3.** табліца; **a table of contents** змест ♦ **on the table** *BrE* для абмеркава́ння; **turn the tables (on smb.)** памяня́цца ро́лямі (з кім-н.)

**tablecloth** [ˈteɪblklɒθ] *n.* абру́с, насто́льнік, насто́льніца

**table d'hôte** [ˌtɑːblˈdəʊt] *n.* табльдо́т, ко́мплексны абе́д

**tableland** [ˈteɪbllænd] *n.* пласкагор'е́, плато́

**tablespoon** [ˈteɪblspuːn] *n.* стало́вая лы́жка

**tablespoonful** [ˈteɪblˌspuːnfʊl] *n.* **: two tablespoonfuls of flour** дзве стало́выя лы́жкі мукі́

**tablet** [ˈtæblət] *n.* **1.** плітá, дóшчачка (*з надпісам*) **2.** мемарыяльная дóшка **3.** таблéтка, пілюля **4.** кавáлак, плíтка, брусóк; **a tablet of chocolate** плíтка шакаладу

**table tennis** [ˈteɪblˌtenɪs] *n.* настóльны тэ́ніс

**tableware** [ˈteɪblweə] *n.* сталóвы пóсуд (*відэльцы, лыжкі і да т.п.*)

**tabloid** [ˈtæblɔɪd] *n.* таблóід (*малафарматная газета з кароткім тэкстам і мноствам ілюстрацый*); сенсацыйная газéта

**taboo** [təˈbuː] *n.* **1.** табу́ **2.** забарóна; **under a taboo** пад забарóнаю; **enforce a taboo** налажы́ць табу́

**tabula** [ˈtæbjələ] *n.* (*pl.* **tabulae**) *лацін., hist.* дóшчачка для пісьмá ♦ **tabula rasa** нéшта чы́стае, некрану́тае

**tabular** [ˈtæbjələ] *adj.* таблíчны; **tabular results** таблíчныя вы́нікі; **in tabular form** у вы́глядзе таблíцы

**tacit** [ˈtæsɪt] *adj.* маўклíвы; **give tacit consent** маўклíва згаджáцца

**taciturn** [ˈtæsɪtɜːn] *adj.* маўклíвы, негаваркí; некамунікáбельны

**tack**[1] [tæk] *n.* **1.** кіру́нак; палітычная лíнія; **be on the right tack** быць на прáвільным шляху́; **try a different tack** паспрабавáць íншы спóсаб **2.** цвік з шырóкай плéшкай **3.** шывóк; **tailor's tacks** фастры́га **4.** *naut.* галс, курс

**tack**[2] [tæk] *v.* **1.** прыбівáць (*цвіком*); прышпíльваць, прышпіляць (*кнопкай*) **2.** фастрыгавáць **3.** *naut.* паварóчваць на другí галс

**tack on** [ˌtækˈɒn] *phr.v. infml* дадавáць, дабаўляць, прыбаўляць

**tackle**[1] [ˈtækl] *n.* **1.** прылáды; **fishing tackle** рыбалóўныя снáсці **2.** *sport* блакірóўка

**tackle**[2] [ˈtækl] *v.* **1.** займáцца (*чым-н.*); **tackle a problem** брáцца за праблéму **2.** *sport* перахóпліваць мяч, блакіравáць мяч

**tacky** [ˈtæki] *adj.* **1.** *infml* мізэ́рны, благí; безгустóўны; нямóдны **2.** ліпу́чы, лíпкі, клéйкі; **tacky to the touch** лíпкі навóбмацак

**tact** [tækt] *n.* такт; тактóўнасць; **show great tact** быць вельмі тактóўным

**tactful** [ˈtæktfəl] *adj.* тактóўны

**tactical** [ˈtæktɪkl] *adj.* тактычны; баявы́; **tactical missiles** баявы́я ракéты

**tactician** [tækˈtɪʃn] *n. infml* тáктык

**tactics** [ˈtæktɪks] *n. pl.* тáктыка; *This time the tactics were different*. На гэты раз тактыка была іншай.

**tactile** [ˈtæktaɪl] *adj. fml* які адчувáецца на дóтык, датыкáльны; **tactile organs** датыкáльныя óрганы

**tactless** [ˈtæktləs] *adj.* бестактóўны, нетактóўны

**tad** [tæd] *n. infml* крыху́, кры́шку, трóхі, трóшкі; **a tad more variety** кры́шку больш разнастáйнасці

**tag**[1] [tæg] *n.* **1.** бíрка, мéтка; этыкéтка, ярлы́к, ярлычóк; **a name tag** імянны́ знак; **a price tag** цэ́ннік **2.** слóва абó фрáза, якáя далучáецца да скáза для эмфáзы; **a tag question** пытáнне з граматы́чным дадáткам **3.** збíтая фрáза, цытáта; **Latin tags** лацíнскія крылáтыя слóвы

**tag**[2] [tæg] *v.* прычапляць; прышпíльваць, прышпіляць (*бірку, этыкетку і да т.п.*)

**tag along** [ˌtægəˈlɒŋ] *phr.v.* **(with)** хадзíць услéд (за)

**tag on** [ˌtægˈɒn] *phr.v.* дадавáць; **tag a postscript on** дапісáць пастскры́птум

**tail**[1] [teɪl] *n.* **1.** хвост **2.** ніз; зáдняя чáстка, зáднік (*самалёта, каметы і да т.п.*) **3.** *infml* шпік, шпег ♦ **heads or tails?** арóл ці рэ́шка?; **have one's tail between one's legs** *infml* падку́рчваць хвост, баяцца; **be on smb.'s tail** ісцí слéдам; **turn tail** кíнуцца наўцёкі; даць драпакá

**tail**[2] [teɪl] *v.* ісцí слéдам

**tail away** [ˌteɪləˈweɪ] *phr.v.* мéншаць, памяншáцца; *His voice tailed away into silence.* Яго голас (паступова) заціх.

**tail off** [ˌteɪlˈɒf] *phr.v.* = **tail away:** *The attendance figures tailed off*. Наведвальнасць знізілася.

**tailback** [ˈteɪlbæk] *n.* дóўгі хвост машы́н, якíя патрáпілі ў дарóжную прóбку

**tailcoat** [ˈteɪlkəʊt] *n.* фрак

**tail lamp** [ˈteɪllæmp] *n. AmE* = **tail light**

**tail light** [ˈteɪllaɪt] *n.* зáдні ліхтáр (*у машыне*)

**tailor** [ˈteɪlə] *n.* кравéц (*які шые для мужчын*)

**tailoring** [ˈteləriŋ] *n.* кравéцтва

**tailor-made** [ˌteɪləˈmeɪd] *adj.* **1.** зрóблены на закáз **2.** **(for)** прыстасавáны, прыдáтны; *He seems tailor-made for the job.* Ён, здаецца, здатны для гэтай працы.

**tails** [teɪlz] *n. pl.* **= tailcoat**

**taint**[1] [teɪnt] *n.* **1.** налёт (*чаго-н.*); сляды́ (*чаго-н.*); **a taint of corruption** элемéнты кару́пцыі **2.** пля́ма; гáньба, загáна

**taint**[2] [teɪnt] *v.* **1.** *fml* псавáць; псавáцца; **a tainted reputation** падмóчаная рэпутáцыя **2.** забру́джваць; забру́джвацца

**take** [teɪk] *v.* **(took, taken) 1.** браць, прымáць; **take a bath** купáцца; **take a bus** сядáць у аўтóбус; **take tea** піць чай, піць гарбáту; **take shelter** хавáцца **2.** вадзíць, вазíць, насíць; **take smb. home** правóдзіць кагó-н. дадóму **3.** патрабавáць; *It takes a lot of time*. Гэта займае шмат часу. **4.** запíсваць; мéраць, вымярáць;

**take one's temperature** мéраць тэмператýру **5.** лічы́ць, разумéць, меркавáць, дýмаць; *I take it you agree.* Я лічу, што ты згодзен. ♦ **be taken ill** захварэ́ць; **take advantage of smth.** скарыстóўваць што-н., выкарыстóўваць што-н.; **take a chance** скарыстáць нагóду; **take a cold** прастудзíцца; **take after smb.** быць падóбным да кагó-н.; **take an interest (in)** зацікáвіцца (у); **take a seat** сядáць; **take a walk** прагýльвацца; **take care (of)** клапацíцца; **take for granted** прымáць за чы́стую манéту; **take it easy** не турбýйся; **take it from me (that)...** *infml* павéр мне, што..; **take notes (of)** запíсваць; **take notice (of)** заўважáць; **take offence** крыýдзіцца; **take part** браць удзéл; **take place** адбывáцца; **take smth. as it comes** прымáць што-н. як янó ёсць; **take steps/measures** прымáць мéры, рабíць зáхады; **take the floor** браць слóва, выступáць

**take aback** [ˌteɪkəˈbæk] *phr.v.* **1.** здзіўляць, збянтэ́жваць **2.** заспéць знянáцку

**take apart** [ˌteɪkəˈpɑːt] *phr.v.* разбірáць на чáсткі

**take away** [ˌteɪkəˈweɪ] *phr.v.* **1.** *math.* аднімáць **2.** *BrE* браць гарáчую éжу навы́нас (*з рэстарана*)

**take back** [ˌteɪkˈbæk] *phr.v.* браць назáд (*слова*)

**take down** [ˌteɪkˈdaʊn] *phr.v.* **1.** знімáць, здымáць (*са сцяны, з паліцы і да т.п.*) **2.** запíсваць

**take in** [ˌteɪkˈɪn] *phr.v.* **1.** давáць прытýлак **2.** уключáць; змяшчáць **3.** разумéць, засвóйваць **4.** падмáнваць, ашýкваць

**take off** [ˌteɪkˈɒf] *phr.v.* **1.** знімáць, здымáць (*адзенне*) **2.** рабíць скíдку **3.** капíраваць, імітавáць **4.** узлятáць (*пра самалёт*)

**take on** [ˌteɪkˈɒn] *phr.v.* **1.** наймáць (*на працу*) **2.** браць на сябé (*адказнасць*)

**take out** [ˌteɪkˈaʊt] *phr.v.* **1.** вымáць; вырывáць **2.** браць, пазычáць (*у бібліятэцы*) **3.** вывóдзіць (*на шпацыр*) **4.** *AmE* браць гарáчую éжу навы́нас (*з рэстарана*)

**take up** [ˌteɪkˈʌp] *phr.v.* **1.** прымáць (*выклік*) **2.** забірáць (*пасажыраў*) **3.** падкарóчваць (*вопратку*) **4.** звяртáцца да кагó-н. (*з пытаннем, прапановай*) **5.** брáцца за што-н., пачынáць спрáву; *When did you take up teaching?* Калі ты пачаў настаўнічаць?

**takeaway** [ˈteɪkəweɪ] *adj.* **1.** што адпускáецца навы́нас (*пра ежу*) **2.** што адпускáе навы́нас (*кафэ, рэстаран*)

**taken** [ˈteɪkən] *p.p.* → **take**

**take-off** [ˈteɪkɒf] *n.* **1.** узлёт, старт (*самалёта*); **a take-off runway** узлётна-пасáдачная паласа **2.** штуршóк дзвюмá нагáмі (*пры скачку*) **3.** *infml* пераймáнне, карыкатýра

**takeout** [ˈteɪkaʊt] *n. AmE* = **takeaway**

**takeover** [ˈteɪkəʊvə] *n.* **1.** (дзяржáўны) перавары́т, захóп улáды **2.** набыццё кантрóльнага пакéта áкцый; зліццё кампáній

**taker** [ˈteɪkə] *n.* пакупнíк

**takings** [ˈteɪkɪŋz] *n. pl.* вы́ручка, бары́ш; **the day's takings** вы́ручка за дзень

**talc** [tælk] *n.* тальк

**talcum powder** [ˈtælkəmˌpaʊdə] *n.* тальк, гігіенíчная пýдра

**tale** [teɪl] *n.* **1.** апавядáнне; апóвесць; падáнне; **a romantic tale** раманты́чная гістóрыя, **"Winter's Tale"** «Зíмняя кáзка» (*п'еса Шэкспіра*) **2.** плётка, чýтка, пагалóска; *It's only a tale.* Гэта толькі плёткі. ♦ **old wives'/travellers' tales** вы́думкі, кáзкі, плёткі, небылíцы; **tell tales** распускáць плёткі, пляткáрыць

**talent** [ˈtælənt] *n.* **1. (for)** тáлент; **a man of great talent** выклю́чна таленавíты чалавéк; **a person of no talent** бéздар, бяздáрны чалавéк **2.** таленавíтая асóба

**talented** [ˈtæləntɪd] *adj.* таленавíты, адóраны

**talent scout** [ˈtæləntˌskaʊt] *n.* шукáльнік тáлентаў

**talisman** [ˈtælɪzmən] *n.* талісмáн

**talk¹** [tɔːk] *n.* **1.** размóва; **double talk** двухсэнсóўная размóва; **idle talk** пустáя размóва; **small talk** свéцкая размóва; **have a talk** пагавары́ць, паразмаўляць; **make talk** пачынáць размóву **2.** балбатня́, пустáя размóва; *It's mere talk!* Гэта адны словы! **3.** чýтка, пагалóска, плётка; *There's* (*some*) *talk of his failure*. Ходзяць чуткі аб ягоным правале. **4. (on)** лéкцыя; даклáд; *She gave a talk on her visit to Paris*. Яна выступіла з паведамленнем аб сваім візіце ў Парыж. **5.** гýтарка; дыялéкт; жаргóн; **baby talk** дзіця́чая размóва; **thieves' talk** зладзéйскі, блатны́ жаргóн

**talk²** [tɔːk] *v.* **(to/with) (about/of) 1.** гавары́ць, размаўляць, гýтарыць; **talk of one thing and another** пагаманíць пра сёе-тóе; **talk to oneself** гавары́ць сам з сабóю; **talk in riddles** гавары́ць загáдкамі; **talk on a subject** гавары́ць на якýю-н. тэ́му; **talk to the point** гавары́ць па сýтнасці (*пытання*); **talk nonsense** нéсці лухтý; **talk politics** гавары́ць пра палíтыку; **talk scandal** распускáць плёткі **2.** гавары́ць, вымаўляць; **talk fluently** гавары́ць бéгла; **learn to talk** вучы́цца гавары́ць; **talk Spanish** гавары́ць па-іспáнску **3. (on/about)** чытáць лéкцыю; раскáзваць пра што-н.; **talk on the radio** выступáць па рáдыё ♦ **talk against time** гавары́ць для таѓо, каб вы́йграць час; **talk big** хвалíцца, выхваляцца; вáжнічаць; **talk double-Dutch** гавары́ць незразумéла; **talk through**

**one's hat** *infml, dated* нéсці лухтý; **talk smb.'s head off**; **talk smb. to death** змýчыць кагó-н. размóвамі; ***Look who's talking!*** *infml* Хто б гаварыў!; **talk (to smb.) like a Dutch uncle** рабíць (камý-н.) стрóгую, алé далікáтную вымóву; **talk smb. into/out of doing smth.** угавóрваць/адгавóрваць кагó-н. зрабíць/не зрабíць штó-н.

**talk away** [ˌtɔːkəˈweɪ] *phr.v.* загавары́цца, забалбатáцца; **talk away an evening** гаманíць, балбатáць увéсь вéчар

**talk back** [ˌtɔːkˈbæk] *phr.v.* пярэ́чыць; **talk back to one's parents** спрачáцца з бацькáмі

**talk down** [ˌtɔːkˈdaʊn] *phr.v.* перакрычáць (*каго-н.*), прымýсіць (*каго-н.*) замаўчáць; *I won't allow myself to be talked down.* Вы не прымусіце мяне замаўчаць.

**talk out** [ˌtɔːkˈaʊt] *phr.v.* **1.** вы́чарпаць тэ́му; дайсцí да сýтнасці; *Let's talk this out before we leave.* Давайце разбяромся ў гэтым да канца, перш чым разыдземся. **2.** зацягваць дэбáты, каб адтэрмінавáць галасавáнне (*у парламенце*)

**talk over** [ˌtɔːkˈəʊvə] *phr.v.* **1.** угавóрваць, перакóнваць; *We finally talked them over to our way of thinking.* Мы нарэшце схілілі іх на свой бок. **2.** абмяркóўваць; дыскутавáць; *Have you talked the problem over?* Вы абмеркавалі праблему?

**talk up** [ˌtɔːkˈʌp] *phr.v.* хвалíць, расхвáльваць; **talk up a book** рабíць рэклáму кнíзе

**talkative** [ˈtɔːkətɪv] *adj.* гаваркí, гаманкí, гаварлíвы, гаманлíвы, балбатлíвы ♦ **as talkative as a parrot** балбатлíвы як папугáй

**talker** [ˈtɔːkə] *n.* **1.** **:** *He's a good talker.* Ён добры суразмоўца. **2.** гаварýн; **an idle talker** балбатýн; пустаслóў; траплó

**talkie** [ˈtɔːki] *n. dated* гукавóе кінó

**talking point** [ˈtɔːkɪŋˌpɔɪnt] *n.* тэ́ма для размóвы

**talking-to** [ˈtɔːkɪŋtuː] *n. infml* вымóва; **give smb. a good talking-to** прабрáць кагó-н., пагаварыць з кім-н. як мáе быць

**talks** [tɔːks] *n. pl.* перамóвы, перагавóры; **peace talks** мíрныя перамóвы

**talk show** [ˈtɔːkʃəʊ] *n.* інтэрв'ю́ са знакамíтасцю, вíдным дзéячам і да т.п.; ток-шóу (*па тэлебачанні*)

**tall** [tɔːl] *adj.* высóкі, рóслы; *How tall is he?* Якога ён росту? ♦ **stand tall** быць гóрдым, упэ́ўненым у сабé

**tallboy** [ˈtɔːlbɔɪ] *n. BrE infml* высóкі кýфар

**tall story** [ˌtɔːlˈstɔːri] *n. infml* вы́думка, нéбыль, небылíца

**tallow** [ˈtæləʊ] *n.* лой, сáла; **a tallow candle** свéчка з лóю

**tally¹** [ˈtæli] *n.* **1.** падлíк (*у гульні*); **the tally of a game** вы́нік гульні **2.** бíрка, квітóк; налéпка

**tally²** [ˈtæli] *v.* **(with)** адпавядáць; сыхóдзіцца, супадáць; *The lists do not tally.* Спісы не сыхóдзяцца.

**talon** [ˈtælən] *n.* кіпцю́р, кíпець; **an eagle's talons** кіпцюры́ арлá

**tambourine** [ˌtæmbəˈriːn] *n. mus.* бýбен, тамбуры́н

**tame¹** [teɪm] *adj.* **1.** свóйскі, ручны́; прырýчаны, утаймавáны **2.** *infml* пакóрлівы, паслухмя́ны (*пра чалавека*) **3.** *infml* нýдны, нецікáвы, банáльны; **a novel with a tame ending** апóвесць з нýдным канцóм

**tame²** [teɪm] *v.* прыручáць, утаймóўваць, дрэсіравáць; **tame a horse** аб'язджáць каня́; **tame smb.'s tongue** *перан.* укарацíць чый-н. язык

**tamer** [ˈteɪmə] *n.* утаймавáльнік, дрэсірóўшчык

**tam-o'-shanter** [ˌtæməˈʃæntə] *n.* шатлáндскі берэ́т

**tamp** [tæmp] *v.* трамбавáць; набівáць; **tamp (down) tobacco in one's pipe** набівáць лю́льку тытунём

**tamper** [ˈtæmpə] *v.* **(with)** умéшвацца; падрабля́ць, псавáць; *This lock has been tampered with.* Нехта пакорпаўся ў замку.

**tampon** [ˈtæmpɒn] *n.* тампóн

**tan¹** [tæn] *n.* **1.** рудавáта-кары́чневы кóлер **2.** загáр; **get a good tan** дóбра загарэ́ць

**tan²** [tæn] *v.* **1.** выраблáць (*скуру*), дубíць **2.** загарáць **3.** *infml* лупцавáць ♦ **tan smb.'s hide** *infml, dated* мóцна біць кагó-н.; дубáсіць

**tandem** [ˈtændəm] *n.* тандэ́м ♦ **in tandem** цýгам, адзíн за адны́м

**tang** [tæŋ] *n.* рэ́зкі пры́смак абó пах; *There was a tang of autumn in the air.* Дыхнула восенню.

**tangent** [ˈtændʒənt] *n. math.* тáнгенс ♦ **fly/go off at a tangent** *BrE, infml* пераключáцца на íншую тэ́му

**tangerine** [ˌtændʒəˈriːn] *n. bot.* мандары́н

**tangible** [ˈtændʒəbl] *adj.* **1.** *fml* які́ адчувáецца на дóтык, адчувáльны **2.** я́сны, вырáзны; **tangible proof** істóтны, рэáльны дóказ

**tangle¹** [ˈtæŋgl] *n.* **1.** зблы́таны клубóк; блытанíна **2.** канфлíкт, неразбяры́ха; **get into a tangle** пасвары́цца

**tangle²** [ˈtæŋgl] *v.* **1.** блы́таць; блы́тацца **2.** заблы́тваць; заблы́твацца; **get tangled in lies** заблы́тацца ў хлуснí **3.** **(with)** свары́цца, канфліктавáць; звя́звацца

**tango** [ˈtæŋgəʊ] *n.* (*pl.* **-os**) тáнга (*танец*)

**tank** [tæŋk] *n.* **1.** бак, цыстэ́рна; **a petrol tank** бензабáк **2.** танк; **a tank attack** тáнкавая атáка

**tankard** [ˈtæŋkəd] *n.* кýфель

**tanker** [ˈtæŋkə] *n.* та́нкер; **a milk tanker** малакаво́з; **a petrol tanker** бензаво́з
**tanner** [ˈtænə] *n.* гарба́р, дубі́льшчык
**tannery** [ˈtænəri] *n.* гарба́рны заво́д, гарба́рня, дубі́льня
**tantalize,** *BrE* **-ise** [ˈtæntəlaɪz] *v.* му́чыць (*ілжывымі надзеямі*)
**tantamount** [ˈtæntəmaʊnt] *adj. fml* раўназна́чны, эквівале́нтны, раўнацэ́нны; *Her statement is tantamount to a confession of guilt.* Яе сцвярджэнне – амаль прызнанне віны.
**tantrum** [ˈtæntrəm] *n.* вы́бух раздражне́ння, істэ́рыка; **get into a tantrum** ускіпе́ць, закаці́ць істэ́рыку
**tap¹** [tæp] *n.* кран (*водаправодны*); **beer on tap** пі́ва з бо́чкі ♦ **on tap** пад руко́ю
**tap²** [tæp] *n.* лёгкі стук
**tap³** [tæp] *v.* сту́каць (*ціха*); ля́паць (*па плячы*)
**tap out** [ˌtæpˈaʊt] *phr.v.* выбіва́ць (*люльку*); высту́кваць (*на машынцы*)
**tap dance** [ˈtæpˌdɑːns] *n.* чачо́тка (*танец*)
**tape¹** [teɪp] *n.* **1.** сту́жка, тасьма́; **sticky tape** скотч, кле́йкая сту́жка **2.** магнітафо́нная сту́жка
**tape²** [teɪp] *v.* запі́сваць на магнітафо́нную сту́жку
**tape up** [ˌteɪpˈʌp] *phr.v.* звя́зваць тасьмо́й; скле́йваць ско́тчам
**tape deck** [ˈteɪpˌdek] *n.* магнітафо́нная прыста́ўка, дэ́ка
**tape measure** [ˈteɪpˌmeʒə] *n.* руле́тка (*для мерання*); сантыме́тр (*краўца*)
**taper¹** [ˈteɪpə] *n.* кнот
**taper²** [ˈteɪpə] *v.* **1.** звужа́ць, зву́жваць; звужа́цца, зву́жвацца **2.** завастра́ць; завастра́цца
**tape-record** [ˈteɪprɪˌkɔːd] *v.* запі́сваць на сту́жку, плёнку
**tape recorder** [ˈteɪprɪˌkɔːdə] *n.* магнітафо́н
**tape recording** [ˈteɪpˌrɪkɔːdɪŋ] *n.* магнітафо́нны за́піс; **play a tape-recording** праслу́хваць магнітафо́нны за́піс
**tapestry** [ˈtæpəstri] *n.* насце́нны дыва́н, габеле́н
**tapioca** [ˌtæpiˈəʊkə] *n.* тапіёка, кру́пы з крухма́лу
**tar¹** [tɑː] *n.* смала́, дзёгаць
**tar²** [tɑː] *v.* пакрыва́ць смало́й, прасмо́львацъ ♦ **tarred with the same brush (as smb.)** ≅ адны́м лы́кам шы́тыя; абое рабое
**tardy** [ˈtɑːdi] *adj. fml* **1.** паво́льны, мару́дны **2.** запо́знены, по́зні; **tardy progress** слабы́ прагрэ́с
**target¹** [ˈtɑːɡɪt] *n.* **1.** мішэ́нь, цэль; **off the target** мі́ма цэ́лі; **the target of jokes** мішэ́нь для кпі́наў **2.** мэ́та; **a target figure/date** пла́навая лі́чба/да́та
**target²** [ˈtɑːɡɪt] *v.* **(at/on)** рабі́ць каго́-н. мішэ́нню (*крытыкі, кпінаў і да т. п.*)
**target language** [ˈtɑːɡɪtˌlæŋɡwɪdʒ] *n.* **1.** мо́ва, на яку́ю ро́біцца перакла́д **2.** мо́ва на вы́хадзе (*ЭВМ*)
**tariff** [ˈtærɪf] *n.* **1.** расцэ́нка, прэйскура́нт **2.** тары́ф; **raise tariff barriers** павялі́чваць мы́тны тары́ф, падыма́ць мы́ту
**tarmac** [ˈtɑːmæk] *n.* (*скар. ад* **tarmacadam**) **1.** гудро́н **2. the tarmac** гудро́нная пляцо́ўка
**tarnish** [ˈtɑːnɪʃ] *v.* **1.** цьмець, рабі́ць цьмя́ным **2.** нясла́віць, псава́ць (*імя, рэпутацыю і да т.п.*); **tarnish one's reputation** псава́ць сваю́ рэпута́цыю
**tarpaulin** [tɑːˈpɔːlɪn] *n.* брызе́нт
**tarry** [ˈtæri] *v. lit. or dated* мару́дзіць, затры́млівацца
**tart¹** [tɑːt] *n.* піро́г (*з фруктамі, ягадамі або варэннем*); **an apple tart** я́блычны піро́г
**tart²** [tɑːt] *n. infml* прастыту́тка
**tart³** [tɑːt] *adj.* **1.** це́рпкі, да́ўкі (*пра фрукты, ягады і да т.п.*) **2.** з'е́длівы, рэ́зкі, калю́чы (*пра заўвагі*); **tart words** шпі́лькі
**tart up** [ˌtɑːtˈʌp] *phr.v.* **: tart oneself up** *infml* расфуфы́рвацца, прыхаро́швацца
**tartan** [ˈtɑːtn] *n.* шатла́ндка (*тканіна ў клетку*); та́ртан
**tartar** [ˈtɑːtə] *n.* **1.** *chem.* ві́нны ка́мень **2.** зубны́ ка́мень **3.** асо́ба дзі́кага но́раву
**tartare sauce** [ˌtɑːtəˈsɔːs] *n.* со́ус тарта́р
**task¹** [tɑːsk] *n.* зада́нне, зада́ча, спра́ва ♦ **take smb. to task** зрабі́ць каму́-н. вымо́ву, даць каму́-н. наганя́й
**task²** [tɑːsk] *v. fml* ста́віць зада́чу, дава́ць зада́нне; **task one's memory with details** перагружа́ць па́мяць падрабя́знасцямі
**task force** [ˈtɑːskˌfɔːs] *n. mil.* часо́вая аператы́ўнасць, гру́па спецыялі́стаў для вырашэ́ння канкрэ́тнай зада́чы (*таксама перан.*)
**taskmaster** [ˈtɑːskˌmɑːstə] *n.* брыгадзі́р; прара́б; нагля́дчык
**tassel** [ˈtæsl] *n.* **1.** кута́с, кута́сік (*аздоба*) **2.** *bot.*ката́х (*кукурузы, вярбы*)
**taste¹** [teɪst] *n.* **1.** смак; **sweet to the taste** сало́дкі на смак; **it's to my taste** гэ́та мне да сма́ку **2.** кава́лачак; глыто́к; *He had a taste of freedom*. Ён адчуў смак волі. **3.** густ, схі́льнасць; **a man of taste** чалаве́к з гу́стам; **tastes differ** пра гу́сты не спрача́юцца
**taste²** [teɪst] *v.* **1.** каштава́ць (*што-н.*) **2.** адчува́ць смак **3.** мець смак, пры́смак; *The pie tastes nice.* Гэты пірог смачны.
**tasteful** [ˈteɪstfəl] *adj.* зро́блены з гу́стам; **tasteful furniture** мэ́бля, зро́бленая з гу́стам

**tasteless** [ˈteɪstləs] *adj.* **1.** нясма́чны; прэ́сны **2.** безгусто́ўны; **tasteless jokes** нетакто́ўныя жа́рты

**taster** [ˈteɪstə] *n.* дэгуста́тар

**tasting** [ˈteɪstɪŋ] *n.* про́ба; **a tasting room** дэгустацы́йная за́ла

**tasty** [ˈteɪsti] *adj.* **1.** сма́чны **2.** *BrE, infml* прыва́бная, сімпаты́чная (*пра жанчыну*)

**tat** [tæt] *n. BrE, infml* барахло́, стары́зна

**ta-ta** [təˈtɑː] *interj. BrE, infml* бай-бай (*развітанне*)

**Tatar** [ˈtɑːtə] *n.* тата́рын; тата́рка; **the Tatars** тата́ры

**tattered** [ˈtætəd] *adj.* падра́ны, пашарпа́ны, у рызмана́х; **tattered clouds** касма́тыя во́блакі; **tattered clothing** зусі́м зно́шанае адзе́нне, лахманы́

**tatters** [ˈtætəz] *n. pl.* рызманы́, рыззё, лахманы́ ♦ **in tatters** разбу́раны ўшчэнт; *Her reputation was in tatters.* Яе рэпутацыя паляцела.

**tattle** [ˈtætl] *v. infml, derog.* пляткáрыць, разво́дзіць плёткі; **tattle a secret** разбалбата́ць сакрэ́т

**tattoo¹** [təˈtuː] *n.* **1.** сігна́л вячэ́рняй зары́; **beat/sound the tattoo** біць зару́ **2.** насту́кванне па́льцамі; бараба́нны дроб

**tattoo²** [təˈtuː] *n.* татуіро́ўка

**tattoo³** [təˈtuː] *v.* татуірава́ць

**tatty** [ˈtæti] *adj. infml* пашарпа́ны, падра́ны, зно́шаны

**taught** [tɔːt] *past, p.p.* → **teach**

**taunt¹** [tɔːnt] *n.* кпі́ны, ядаві́тая насме́шка; ко́лкасць; го́ркі папро́к

**taunt²** [tɔːnt] *v.* **1.** гавары́ць з'е́дліва, падко́лваць, падпуска́ць шпі́лькі **2.** зласлі́ва папрака́ць, кі́даць папро́кі; **taunt smb. with cowardice** абвінава́чваць каго́-н. у баязлі́васці

**Taurus** [ˈtɔːrəs] *n.* **1.** *astron.* Цяле́ц (*сузор'е*) **2.** *astrol.* Цяле́ц (*знак задыяка*; *чалавек, які нарадзіўся пад гэтым знакам*)

**taut** [tɔːt] *adj.* **1.** тугі́; наця́гнуты, напя́ты **2.** напру́жаны (*пра нервы, мышцы і да т.п.*); **a taut smile** ненатура́льная ўсме́шка

**tauten** [ˈtɔːtn] *v.* ту́га наця́гваць; наця́гвацца; напру́жваць; напру́жвацца

**tautology** [tɔːˈtɒlədʒi] *n.* таўтало́гія

**tavern** [ˈtævən] *n. lit., dated* таве́рна, карчма́

**tawdry** [ˈtɔːdri] *adj.* **1.** безгусто́ўны, крыклі́вы, мішу́рны; **tawdry finery** мішура́ **2.** пампе́зны (*пра стыль, манеры*)

**tawny** [ˈtɔːni] *adj.* рудава́та-кары́чневы

**tax¹** [tæks] *n.* пада́так, по́шліна, збор; **income tax** падахо́дны пада́так; **national/local taxes** дзяржа́ўныя/мясцо́выя пада́ткі; **inheritance tax** пада́так на спа́дчыну; **profits tax** пада́так на прыбы́так; **tax rates** велічыня́ пада́ткаў; **lower/reduce tax rates** памянша́ць пада́ткі; **impose/levy a tax on smb.** абклада́ць пада́ткам каго́-н. ♦ **a tax on smth.** цяжа́р, ярмо́ над чым-н. *This is a tax on his health.* Гэта падрывае яго здароўе.

**tax²** [tæks] *v.* **1.** абклада́ць, абкла́дваць пада́ткам **2.** празме́рна напру́жваць; стамля́ць; **tax one's brain(s)** выпрабо́ўваць сябе́ ♦ **tax smb. with smth.** *fml* абвінава́чваць каго́-н. у чым-н.

**taxable** [ˈtæksəbl] *adj.* які́ абклада́ецца пада́ткам; падаткаабклада́льны; **taxable costs** устано́ўленыя зако́нам судо́выя выда́ткі

**taxation** [tækˈseɪʃn] *n.* абклада́нне пада́ткам; **reduce/increase taxation** змянша́ць/павялі́чваць пада́ткі

**tax avoidance** [ˌtæksəˈvɔɪdəns] *n.* памяншэ́нне су́мы пада́тку без парушэ́ння зако́на (*зрабіўшы пераразлік*)

**tax evasion** [ˌtæksɪˈveɪʒn] *n.* ухіле́нне ад упла́ты пада́ткаў

**tax exempt** [ˌtæksɪgˈzempt] *adj.* во́льны ад пада́тку, які́ не абклада́ецца пада́ткам

**tax-free** [ˌtæksˈfriː] *adj.* во́льны ад пада́ткаў; **tax-free goods** тава́ры, за які́я не трэ́ба плаці́ць пада́так

**tax haven** [ˈtæksˌheɪvn] *n.* краі́на з ні́зкімі пада́ткамі

**taxi¹** [ˈtæksi] *n.* таксі́, таксо́ўка; **call a taxi** выкліка́ць таксі́; **hail a taxi** спыня́ць таксі́

**taxi²** [ˈtæksi] *v.* рулява́ць (*пра самалёт*)

**taxi-cab** [ˈtæksɪkæb] *n.* = **taxi¹**

**taxi rank** [ˈtæksiˌræŋk] *n. BrE* стая́нка таксі́

**taxi stand** [ˈtæksiˌstænd] *n.* = **taxi rank**

**taxman** [ˈtæksmæn] *n.* (*pl.* **-men**) збо́ршчык пада́ткаў

**taxpayer** [ˈtæksˌpeɪə] *n.* падаткаплацéльшчык

**TB** [ˌtiːˈbiː] (*скар. ад* **tuberculosis**) *med.* туберкулёз, сухо́ты

**tea** [tiː] *n.* **1.** чай, гарба́та; **herb tea** гарба́та; **high tea** ра́нняя сы́тная вячэ́ра з гарба́тай; **have tea** піць чай, чаява́ць; **make tea** зава́рваць чай; *Two teas, please.* Два кубачкі чаю, калі ласка. **2.** нава́р; **beef tea** булён ♦ **not (smb's) cup of tea** *infml* не даспадобы (каму́-н.); **not for all the tea in China** ≅ ні за які́я гро́шы, ні ў я́кім ра́зе

**tea bag** [ˈtiːˌbæg] *n.* паке́цік ча́ю, гарба́ты

**tea break** [ˈtiːˌbreɪk] *n.* перапы́нак на ку́бачак гарба́ты

**teach** [tiːtʃ] *v.* **(taught)** вучы́ць, выклада́ць (*прадмет*); **a teach yourself book** самавучы́цель; **teach smb. a lesson** правучы́ць каго́-н.;

**teach school** *AmE* працавáць у шкóле настáўнікам ♦ **teach one's grandmother to suck eggs** *BrE, infml* ≅ вучы́ць вучóнага; **teach an old dog new tricks** перавýчваць карó-н. на стáрасці гадóў

**teachable** [ˈti:tʃəbl] *adj.* **:** *The boy is not teachable.* Гэтага хлопца нельга навучыць.

**teacher** [ˈti:tʃə] *n.* настáўнік; настáўніца; выклáдчык; выклáдчыца; **a teacher edition** метады́чны дапамóжнік; **teacher education** падрыхтóўка настáўнікаў; **a student teacher** настáўнік-практыкáнт

**teach-in** [ˈti:tʃɪn] *n.* «тыч-ін», ды́спут-семінáр; **hold a teach-in** правóдзіць ды́спут-семінáр

**teaching** [ˈti:tʃɪŋ] *n.* **1.** навучáнне; **the teaching staff** калекты́ў настáўнікаў; **take up/go into teaching** ісці́ выкладáць, ісці́ ў настáўнікі **2.** *pl.* **teachings** вучэ́нне, дактры́на; **the teachings of the church** царкóўныя дагмáты

**teaching aid** [ˈti:tʃɪŋˌeɪd] *n.* нагля́дны дапамóжнік; тэхні́чны срóдак навучáння

**teaching hospital** [ˌti:tʃɪŋˈhɒspɪtəl] *n.* клі́ніка пры медыцы́нскай вышэ́йшай устанóве

**tea cloth** [ˈti:klɒθ] *n.* кухóнны ручні́к (*для выціранне посуду*)

**tea cosy** [ˈti:kəʊzi] *n.* чахóл на імбры́чак

**teacup** [ˈti:kʌp] *n.* кýбачак для гарбáты, чáйны кýбачак ♦ **a storm in a teacup** бýра ў шкля́нцы вады́

**teadance** [ˈti:dɑ:ns] *n.* танцавáльная вечары́на (*з чаем*)

**tea garden** [ˈti:ˌgɑ:dn] *n.* чайня́я абó рэстарáн пад адкры́тым нéбам

**teak** [ti:k] *n. bot.* цік (*дрэва*)

**teakettle** [ˈti:ˌketl] *n.* чáйнік (*для гатавання вады*)

**tea leaf** [ˈti:ˌli:f] *n.* (*pl.* **leaves**) чáйны ліст

**team**[1] [ti:m] *n.* **1.** спартыў́ная камáнда; **the home team** гаспадары́ пóля; **the visiting team** камáнда гасцéй **2.** брыгáда, грýпа (*рабочых*) **3.** запрэ́жка (*валоў, коней і да т.п.*)

**team**[2] [ti:m] *v.* злучáцца, быць рáзам (*у працы, гульні*)

**team up** [ˌti:mˈʌp] *phr.v.* **(with)** аб'яднóўвацца; супрацóўнічаць

**team leader** [ˈti:mˌli:də] *n.* брыгадзі́р; лі́дар грýпы

**teammate** [ˈti:mmeɪt] *n.* член той жа камáнды абó брыгáды

**team spirit** [ˌti:mˈspɪrɪt] *n.* дух супрацóўніцтва

**teamster** [ˈti:mstə] *n. AmE* шафёр грузавікá

**teamwork** [ˈti:mwɜ:k] *n.* талакá, супóльная прáца; узаемадапамóга

**tea party** [ˈti:ˌpɑ:ti] *n.* вечары́на з гарбáтай

**teapot** [ˈti:pɒt] *n.* імбры́чак, чáйнік для завáркі чáю

**tear**[1] [tɪə] *n.* слязá; **in tears** заплáканы; **burst into tears** расплáкацца; **move smb. to tears** давóдзіць карó-н. да слёз

**tear**[2] [teə] *n.* разры́ў, дзі́рка

**tear**[3] [teə] *v.* **(tore, torn) 1.** (і)рвáць; (і)рвáцца **2.** дзéрці, разрывáць; разрывáцца **3.** імчáцца, нéсціся ♦ **be in a tearing hurry/rush** вéльмі спяшáцца; **tear at smb./smth.** накі́нуцца на карó-н./што-н.; **tear into smb./smth.** нападáць на карó-н./што-н.; **tear one's hair (out)** *infml* (і)рвáць на сабé валасы́; **tear smth. apart/to bits/to shreds** разбуры́ць што-н. ушчэ́нт; раскрытыкавáць што-н.; **(be) torn between A and B** разрывáцца памі́ж дзвюмá спрáвамі

**tear along** [ˌteərəˈlɒŋ] *phr.v.* кі́нуцца, ры́нуцца

**tear away** [ˌteərəˈweɪ] *phr.v.* вырывáць; **tear oneself away (from smb./smth.)** вырывáцца, адрывáцца (ад карó-н./чагó-н.)

**tear down** [ˌteəˈdaʊn] *phr.v.* зрывáць; руйнавáць (*будынкі, масты і да т.п.*)

**tear off** [ˌteərˈɒf] *phr.v.* адрывáць ♦ **tear smb. off a strip/tear a strip off smb.** *infml* рабі́ць камý-н. нагоня́й, рабі́ць камý-н. вымóву

**tear out** [ˌteərˈaʊt] *phr.v.* вырывáць

**tear up** [ˌteərˈʌp] *phr.v.* ірвáць; узрывáць

**teardrop** [ˈtɪədrɒp] *n.* слязі́нка

**tearful** [ˈtɪəfəl] *adj.* які́ плáча, плаксі́вы, слязлі́вы; **a tearful farewell** развітáнне з плáчам

**tear gas** [ˈtɪəgæs] *n.* слёзатачы́вы газ

**tearing** [ˈteərɪŋ] *adj.* імклі́вы, нястры́мны; **a tearing hurry** шалёная спéшка; **a tearing beauty** рэ́дкая прыгажóсць

**tear-jerker** [ˈtɪəˌdʒɜ:kə] *n. infml* слязлі́вы фільм, слязлі́вая п'éса

**tearless** [ˈtɪələs] *adj.* без слёз; **tearless grief** журбá без слёз

**tear-off** [ˈteərɒf] *adj.* адрыўны́ (*лісток*)

**tea room** [ˈti:rʊm] *n. BrE* малéнькі рэстарáн, дзе мóжна заказáць гарбáту абó лёгкую éжу

**tease** [ti:z] *v.* **1.** дражні́ць, цвялі́ць, кпіць **2.** надакýчваць; дамагáцца **3.** начэ́сваць, узбівáць валасы́

**teaser** [ˈti:zə] *n. infml* ця́жкая задáча, галавалóмка; *This one's a real teaser!* Над гэтым галаву зломіш!

**tea set** [ˈti:ˌset] *n.* чáйны сервí з, сервí з для гарбáты

**tea shop** [ˈti:ˌʃɒp] *n.* = **tea room**

**teaspoon** [ˈti:spu:n] *n.* чáйная лы́жка

**teaspoonful** [ˈti:spu:nfʊl] *n.* **: two teaspoonfuls of sugar** дзве чáйныя лы́жкі цýкру

**tea strainer** [ˈti:ˌstreɪnə] *n.* сі́тца для гарбáты

**teat** [ti:t] *n.* **1.** *BrE* сóска (*на бутэльцы*) **2.** сасóк (*жывёлаў*)

**tea table** [ˈtiːˌteɪbl] *n.* ча́йны сто́лік; **a tea table conversation** гу́тарка, размо́ва за гарба́тай
**teatime** [ˈtiːtaɪm] *n.* час вячэ́рняй гарба́ты; **at teatime** за гарба́тай
**tea towel** [ˈtiːˌtaʊəl] *n.* = **tea cloth**
**tea-tray** [ˈtiːˌtreɪ] *n.* ча́йны падно́с
**tea-urn** [ˈtiːɜːn] *n.* **1.** кіпяці́льнік (*бак*) **2.** сама-ва́р (*электрычны*)
**tech** [tek] *n. BrE, infml* (*скар. ад* **technical college**) тэхні́чны кале́дж
**technical** [ˈteknɪkl] *adj.* **1.** тэхні́чны; **a technical education** тэхні́чная адука́цыя **2.** спецыя́льны; **technical terms** спецыя́льныя тэ́рміны
**technical college** [ˈteknɪklˌkɒlɪdʒ] *n.* тэхні́чны кале́дж
**technicality** [ˌteknɪˈkæləti] *n.* **1.** тэхні́чная дэта́ль; **legal technicalities** юрыды́чныя то́нкасці **2.** *pl.* **technicalities** спецыя́льная тэрмінало́гія, спецыя́льныя тэ́рміны
**technically** [ˈteknɪkəli] *adv.* **1.** тэхні́чна; *Technically, the building is a masterpiece.* У тэхнічным плане гэты будынак – проста шэдэўр. **2.** фарма́льна; *He is technically literate.* Фармальна кажучы, ён адукаваны.
**technician** [tekˈnɪʃn] *n.* **1.** тэ́хнік **2.** ма́йстар сваёй спра́вы; спецыялі́ст
**technicolor** [ˈteknɪˌkʌlə] *n. BrE, infml* я́ркі, інтэнсі́ўны ко́лер; **in glorious technicolor** у цудо́ўных сакаві́тых тана́х
**technique** [tekˈniːk] *n.* тэ́хніка; тэхні́чнае майстэ́рства; **computing technique** камп'ю́тарная тэ́хніка; **display (an) excellent technique** дэманстрава́ць выда́тнае майстэ́рства
**techno** [ˈteknəʊ] *n. mus.* тэ́хна (*электронная танцавальная музыка з рознымі гукавымі эфектамі і з пульсуючым рытмам*)
**technocracy** [tekˈnɒkrəsi] *n.* тэхнакра́тыя; ідэало́гія тэхнакра́тыі; *Is Britain becoming a technocracy?* Ці становіцца Брытанія краінай-тэхнакратам?
**technocrat** [ˈteknəkrət] *n.* тэхнакра́т
**technological** [ˌteknəˈlɒdʒɪkl] *adj.* тэхналагі́чны; **technological knowledge** спецыя́льныя ве́ды
**technologist** [tekˈnɒlədʒɪst] *n.* тэхно́лаг; інжыне́рна-тэхні́чны рабо́тнік
**technology** [tekˈnɒlədʒi] *n.* **1.** тэ́хніка; тэхні́чныя і прыкладны́я наву́кі; **medical technology** медыцы́нская тэ́хніка **2.** тэхнало́гія; **high technology** сучасная тэхнало́гія
**teddy bear** [ˈtediˌbeə] *n.* плю́шавы мі́шка, мядзве́дзік
**Teddy boy** [ˈtediˌbɔɪ] *n. BrE, infml, dated* пі́жон, стыля́га
**tedious** [ˈtiːdiəs] *adj.* сто́мны, ну́дны; **a tedious life** ну́днае жыццё
**tediousness** [ˈtiːdɪəsnəs] *n.* нуда́, нудо́та
**tedium** [ˈtiːdiəm] *n. lit.* нуда́, нудо́та; сто́мленасць; **relieve the tedium of expectation** разве́яць ну́днае чака́нне; **two hours of endless tedium** дзве гадзі́ны бяско́нцай нуды́
**tee** [tiː] *n.* **1.** ме́тка для мяча́ (*у гольфе*) **2.** мішэ́нь (*у гульнях*)
**tee-hee** [ˌtiːˈhiː] *interj.* хі-хі́ (*выражае іронію*)
**teem** [tiːm] *v.* **(with)** кішэ́ць; быць бага́тым (*чым-н.*); быць перапо́ўненым; *It is teeming with rain.* Лье як з вядра; *Fish teem in these rivers.* У гэтых рэках багата рыбы.
**teenage** [ˈtiːneɪdʒ] *adj.* у гада́х ад 13 да 19; падле́ткавы; юна́цкі; **teenage children** падле́ткі
**teenager** [ˈtiːneɪdʒə] *n.* падле́так; юна́к; тынэ́йджар
**teens** [tiːnz] *n. pl.* узро́ст ад 13 да 19; *He's in his teens.* Яму няма і дваццаці.
**teeny** [ˈtiːni] *adj. infml* малю́ткі, малю́сенькі
**teeny-bopper** [ˈtiːniˌbɒpə] *n. infml, dated* дзяўчы́нка-хі́пі
**teeny-weeny** [ˌtiːniˈwiːniː] *adj. infml* = **teeny**
**tee off** [ˌtiːˈɒf] *phr.v.* **1.** рабі́ць пе́ршы ўдар (*у гольфе*); рабі́ць пе́ршы крок **2.** *AmE, infml* раз'ю́шваць, даво́дзіць да зло́сці
**teepee** [ˈtiːpiː] *n.* вігва́м (*жытло амерыканскіх індзейцаў*)
**teeter** [ˈtiːtə] *v.* **1.** гайда́цца на арэ́лях **2.** хіста́цца, калыха́цца **3.** паку́таваць ад сумне́нняў ♦ **teeter on the brink/edge of smth.** знахо́дзіцца на мяжы́ чаго́-н.
**teeter-totter** [ˌtiːtəˈtɒtə] *n. AmE* го́йданка, гу́шкалка, арэ́лі
**teeth** [tiːθ] *pl.* → **tooth**
**teethe** [tiːð] *v.* праразá́цца, прарэ́звацца (*пра зубы*); *He is teething.* У яго прарэзваюцца зубы.
**teething troubles** [ˈtiːðɪŋˌtrʌblz] *n. pl.* першапачатко́выя ця́жкасці (*у чым-н.*)
**teetotal** [ˈtiːtəʊtl] *adj.* непіту́шчы
**teetotaler** [tiːˈtəʊtlə] *AmE* = **teetotaller**
**teetotaller** [tiːˈtəʊtlə] *n.* непіту́шчы
**TEFL** [ˈtefl] (*скар. ад* **Teaching English as a Foreign Language**) выклада́нне англі́йскай мо́вы як заме́жнай
**tel.** (*пісьмовае скар. ад* **telephone number**)) ну́мар тэлефо́на
**telecast** [ˈtelɪkɑːst] *n.* тэлевізі́йная перада́ча; тэлепрагра́ма
**telecommunications** [ˌtelɪkəˌmjuːnɪˈkeɪʃnz] *n. pl.* тэлекамуніка́цыі
**telegram** [ˈtelɪgræm] *n.* тэлегра́ма; **a coded telegram** шыфрагра́ма; **a greetings telegram** тэлегра́ма-віншава́нне; **a reply-paid telegram** тэлегра́ма з апло́чаным адка́зам

**telegraph¹** [ˈtelɪgrɑːf] *n.* тэлеграф; **a telegraph cable** тэлеграфны кабель; **by telegraph** тэлеграфам, па тэлеграфе
**telegraph²** [ˈtelɪgrɑːf] *v.* тэлеграфаваць; перадаваць па тэлеграфе
**telegraph agency** [ˌtelɪgrɑːfˈeɪdʒənsi] *n.* тэлеграфнае агенцтва
**telegraphese** [ˌtelɪgrəˈfiːz] *n.* «тэлеграфны стыль»
**telegraphic** [ˌtelɪˈgræfɪk] *adj.* тэлеграфны; **a telegraphic code** тэлеграфны код; **telegraphic address** тэлеграфны/скарочаны адрас
**telegraphist** [tɪˈlegrəfɪst] *n.* тэлеграфіст
**telegraph line** [ˈtelɪgrɑːfˌlaɪn] *n.* тэлеграфная лінія
**telegraph pole** [ˈtelɪgrɑːfˌpəʊl] *n.* тэлеграфны слуп
**telegraphy** [tɪˈlegrəfi] *n.* тэлеграфія; **wireless telegraphy** бяздротавая тэлеграфія; радыётэлеграфія
**telepath** [ˈtelɪpɑːθ] *n.* тэлепат
**telepathic** [ˌtelɪˈpæθɪk] *adj.* тэлепатычны; *He must be telepathic.* Ён, мабыць, тэлепат.
**telepathist** [ˈtelɪpɑːθɪst] *n.* = **telepath**
**telepathy** [tɪˈlepəθi] *n.* тэлепатыя
**telephone¹** [ˈtelɪfəʊn] *n.* тэлефон; **by telephone** па тэлефоне; **a public telephone/coin-operated telephone** тэлефон-аўтамат; **a plug-in telephone** пераносны тэлефон; **a room-to-room/house telephone** унутраны тэлефон; **on the telephone** па тэлефоне; *You are wanted on the telephone.* Табе тэлефануюць. ♦ **be on the telephone** 1) *BrE* мець тэлефон 2) гаварыць па тэлефоне
**telephone²** [ˈtelɪfəʊn] *v.* званіць па тэлефоне; тэлефанаваць; **telephone news to smb.** перадаваць каму-н. навіны па тэлефоне
**telephone book** [ˈtelɪfəʊnˌbʊk] *n.* тэлефонны даведнік
**telephone booth** [ˈtelɪfəʊnˌbuːθ] *n.* тэлефон-аўтамат, тэлефонная будка
**telephone box** [ˈtelɪfəʊnˌbɒks] *n.* *BrE* = **phone box**
**telephone directory** [ˈtelɪfəʊndɪˌrektəri] *n.* = **telephone book**
**telephone exchange** [ˈtelɪfəʊnɪksˌtʃeɪndʒ] *n.* тэлефонная станцыя
**telephone kiosk** [ˈtelɪfəʊnˌkiːɒsk] *n.* *BrE* = **phone box**
**telephone message** [ˈtelɪfəʊnˌmesɪdʒ] *n.* тэлефанаграма
**telephone number** [ˈtelɪfəʊnˌnʌmbə] *n.* нумар тэлефона
**telephone operator** [ˈtelɪfəʊnˌɒpəreɪtə] *n.* тэлефаніст; тэлефаністка
**telephone pole** [ˈtelɪfəʊnˌpəʊl] *n.* тэлеграфны слуп
**telephone receiver** [ˈtelɪfəʊnrɪˌsiːvə] *n.* тэлефонная трубка, слухаўка
**telephone set** [ˈtelɪfəʊnˌset] *n.* тэлефонны апарат
**telephone subscriber** [ˈtelɪfəʊnsəbˌskraɪbə] *n.* абанент, уладальнік тэлефона
**telephone system** [ˈtelɪfəʊnˌsɪstɪm] *n.* тэлефонная сетка
**telephonist** [tɪˈlefənɪst] *n.* *BrE* = **telephone operator**
**telephotography** [ˌtelɪfəˈtɒgrəfi] *n.* тэлефатаграфія
**telephoto lens** [ˌtelɪfəʊtəʊˈlenz] *n.* тэлеаб'ектыў
**teleprinter** [ˈtelɪprɪntə] *n.* тэлетайп
**telescope¹** [ˈtelɪskəʊp] *n.* тэлескоп
**telescope²** [ˈtelɪskəʊp] *v.* **1.** скарачаць; **telescope a four-year course into three years** прайсці чатырохгадовы курс за тры гады **2.** высоўваць, рассоўваць; складаць, складваць
**telescopic** [ˌtelɪˈskɒpɪk] *adj.* **1.** тэлескапічны; **a telescopic sight** тэлескапічны прыцэл; **a telescopic rifle** стрэльба з аптычным прыцэлам **2.** бачны праз тэлескоп; **telescopic stars** зоркі, не бачныя няўзброеным вокам **3.** высоўны, складны; **telescopic tumblers** складныя шклянкі; **a telescopic umbrella** складны парасон
**teletypewriter** [ˌtelɪˈtaɪpraɪtə] *n.* *AmE* = **teleprinter**
**televiewer** [ˈtelɪvjuːə] *n.* тэлеглядач
**televise** [ˈtelɪvaɪz] *v.* трансліраваць па тэлебачанні; *The Olympic Games are always televised.* Алімпійскія гульні заўсёды паказваюць па тэлебачанні.
**television** [ˈtelɪvɪʒn] *n.* **1.** тэлебачанне; **a television commentator** тэлекаментатар; **a television diary** праграма перадач; **a television series/serial** тэлесерыял **2.** тэлевізар ♦ **on (the) television** па тэлебачанні
**television picture tube** [ˌtelɪvɪʒnˈpɪktʃəˌtjuːb] *n.* кінескоп
**television set** [ˈtelɪvɪʒnˌset] *n.* тэлевізар
**telex¹** [ˈteleks] *n.* тэлекс
**telex²** [ˈteleks] *v.* паведамляць па тэлексе
**tell** [tel] *v.* **(told) 1.** гаварыць, казаць; расказваць, апавядаць; **tell smb. a lie** хлусіць каму-н. **2.** загадваць, распараджацца **3.** адрозніваць, распазнаваць **4. (on/upon)** адбівацца (на) ♦ **tell me another!** *infml* яшчэ што скажаш! (*я не веру*); **tell tales (about smth./on smb.)** *BrE* разводзіць плёткі (аб чым.н./ кім-н.); **to tell the truth** *infml* праўду кажучы; **you can never tell / there's no telling/ who can tell?** хто ведае?
**tell off** [ˌtelˈɒf] *phr.v.* *infml* адчытаць, прабраць; абляяць

**teller** [ˈtelə] *n.* **1.** касíр; касíрка (*у банку*) **2.** лічы́льнік галасóў (*у Брытанскім парламенце*) **3.** апавядáльнік, раскáзчык

**telling** [ˈtelɪŋ] *adj.* эфéктны; мóцны; *These are telling figures.* Гэтыя лічбы гавораць пра многае.

**telling-off** [ˈtelɪŋɒf] *n. BrE, infml* вымóва, наганя́й, прачухáнка, прачухáнец; **give a telling-off** давáць камý-н. прачухáнца

**telltale¹** [ˈtelteɪl] *n. infml* паклёпнік, нагавóршчык; данóсчык; пляткáр; пляткáрка

**telltale²** [ˈtelteɪl] *adj.* які́ свéдчыць (*пра што-н.*); які́ выдаé (*што-н.*); **telltale clues** шматзнáчныя улíкі

**telly** [ˈteli] *n. BrE, infml* тэ́лік; **on telly** па тэ́ліку

**temper¹** [ˈtempə] *n.* **1.** нóраў, харáктар; *He has a quick temper.* Ён мае гарачы нораў. **2.** настрóй; гумóр; **fly/get into a temper** раззлавáцца ♦ **keep/lose one's temper** валóдаць сабóй/выхóдзіць з сябé

**temper²** [ˈtempə] *v.* **1.** загартóўваць метáл **2.** рэгулявáць; змякчáць; **temper one's enthusiasm** стры́млівацца

**tempera** [ˈtempərə] *n.* тэ́мпера, тэ́хніка жы́вапісу тэ́мпернымі фáрбамі

**temperament** [ˈtemprəmənt] *n.* тэмперáмент; нóраў; **a poetical temperament** паэты́чная натýра; **have a lot of temperament** капры́зіць, капры́знічаць; пакáзваць нóраў; *She has a nervous temperament.* Яна вельмі нервовая.

**temperamental** [ˌtemprəˈmentl] *adj.* **1.** арганíчны; *He has a temperamental dislike for such work.* Ён арганічна не трывае такую працу. **2.** тэмперáментны; неўраўнавáжаны, імпульсíўны; *My car is a bit temperamental.* Мая машына крыху наравістая.

**temperance** [ˈtempərəns] *n.* **1.** *fml* стры́манасць; **temperance in eating** стры́манасць у ядзе **2.** непітýшчасць; **a temperance society** супóлка непітýшчых; **a temperance hotel** гатэ́ль, у які́м не прадаюць алкагóльныя напóі

**temperate** [ˈtempərət] *adj.* **1.** памяркóўны; умéраны; **a temperate climate** умéраны клíмат **2.** стры́маны; лагóдны; *Be more temperate in your language.* Сачы за сваёй мовай.

**temperature** [ˈtemprətʃə] *n.* тэмператýра; **get/have/run a temperature** мець павы́шаную тэмператýру; **take smb.'s temperature** мéраць камý-н. тэмператýру

**tempest** [ˈtempɪst] *n.* бýра; навальнíца ♦ **a tempest in a tea-pot** *AmE* бýра ў шкля́нцы вады́

**tempestuous** [temˈpestʃuəs] *adj.* бурлíвы, бýрны; навальні́чны; пары́вісты, гвалтóўны (*пра вецер*); **tempestuous political debates** гарáчыя палíты́чныя дэбáты

**template** [ˈtempleɪt] *n.* шаблóн; мадэ́ль; калíбр; лякáла; узóр

**temple¹** [ˈtempl] *n.* святы́ня, храм; **go to temple** *AmE* ісці́ на малéбен (*у сінагогу*)

**temple²** [ˈtempl] *n.* скронь

**tempo** [ˈtempəʊ] *n.* (*pl.* **tempos** *or* **tempi**) тэмп; рытм; **in waltz tempo** у ры́тме вáльса; **the tempo of modern living** тэмп сучáснага жыцця́

**temporal** [ˈtempərəl] *adj.* **1.** свéцкі; людскí; **the lords temporal** свéцкія члéны палáты лóрдаў **2.** часóвы, мінýчы; **the temporal and the eternal** тлéннае і вéчнае; **a temporal pause** *ling.* тэмпарáльная пáўза; **a temporal clause** *ling.* дадáны сказ чáсу **3.** *anat.* скрóневы; **a temporal vein** скрóневая вéна

**temporarily** [ˈtempərərɪli] *adv.* часóва; **put off the work temporarily** адклáдваць на некатóры час прáцу

**temporary** [ˈtempərəri] *adj.* часóвы; **a temporary job** часóвая прáца

**temporize,** *BrE* **-ise** [ˈtempəraɪz] *v. fml* цягнýць час, марýдзіць; **temporize with smb.** ісці́ на кампрамíс з кім-н.

**tempt** [tempt] *v.* **1. (into)** спакушáць; *The devil tempted him.* Яго падбіў д'ябал. **2.** вáбіць; нáдзіць; *I was tempted to leave.* Мне карцела сысці. ♦ **tempt fate/providence** выпрабóўваць лёс; шукáць бяды́

**temptation** [tempˈteɪʃn] *n.* спакушэ́нне; спакýса; **lead smb. into temptation** увóдзіць кагó-н. у спакýсу; **yield/give way to temptation** паддавáцца спакýсе; **resist the temptation** стры́млівацца ад спакýсы

**tempted** [ˈtemptɪd] *adj.* схі́льны; *I'm very tempted to sell my house.* Я схільны прадаць свой дом.

**tempter** [ˈtemptə] *n.* **1.** спакýснік **2. the Tempter** д'я́бал, сатанá

**tempting** [ˈtemptɪŋ] *adj.* спакýслівы; прынáдны; прывáбны; *It sounds tempting.* Гэта гучыць прывабна.

**temptress** [ˈtemptrəs] *adj.* спакýсніца

**ten** [ten] *num, n.* дзéсяць, дзяся́так; **in tens/ten at a time** дзяся́ткамі ♦ **ten to one** верагóдна, хутчэ́й за ўсё, дзéсяць сýпраць аднагó

**tenable** [ˈtenəbl] *adj.* тры́валы, надзéйны (*пра пазіцыю*); *The post is tenable for three years.* Гэтую пасаду можна займаць тры гады.

**tenacious** [təˈneɪʃəs] *adj.* **1.** *fml* вя́зкі, лíпкі, клéйкі; **tenacious clay** клéйкая глíна **2.** упáрты, настóйлівы; **tenacious courage** непахíсная мýжнасць **3.** учэ́пісты; **a tenacious memory** тры́валая пáмяць

**tenacity** [tə'næsəti] *n. fml* **1.** вя́зкасць, кле́йкасць **2.** упа́ртасць, насто́йлівасць **3.** учэ́пістасць; **tenacity of purpose** мэтанакірава́насць

**tenancy** ['tenənsi] *n.* **1.** вало́данне, улада́нне (*нерухомай маёмасцю*); **a tenancy in common** суме́снае вало́данне **2.** вало́данне на права́х арэ́нды; **the tenancy of land** вало́данне зямлёю; **hold a life tenancy of smth.** мець пажыццёвае пра́ва вало́дання чым-н.

**tenant** ['tenənt] *n.* **1.** ула́дальнік нерухо́май маёмасці **2.** арандáтар; кватара́нт; **a tenant at will** бестэрміно́вы арандáтар

**tench** [tentʃ] *n.* лінь (*рыба*)

**Ten Commandments** [ˌtenkə'mɑːndmənts] *n. pl. bibl.* **the Ten Commandments** Дзе́сяць За́паведзяў

**tend**[1] [tend] *v.* **1.** дагляда́ць; клапаці́цца; па́свіць; **tend one's plants** дагляда́ць расл́іны **2.** *AmE* прыслугóўваць, абслугóўваць; **tend the store** абслугóўваць пакупнікóў; **tend on smb.** прыслугóўваць каму́-н. за стало́м

**tend**[2] [tend] *v.* **1.** мець тэндэ́нцыю, схі́льнасць; *It tends to rain.* Магчыма, будзе дождж. **2. (to/towards)** ісці́ ў пэ́ўным напра́мку, кірава́цца (*пра курс*); *Prices are tending upwards.* Цэны растуць.

**tendency** ['tendənsi] *n.* **(to/towards)** тэндэ́нцыя, схі́льнасць; *There is a tendency for the weak vowels to disappear in English.* У англійскай мове слабыя галосныя маюць тэндэнцыю знікаць.

**tendentious** [ten'denʃəs] *adj. fml* тэндэнцы́йны; прадузяты; **a tendentious report** тэндэнцы́йны дакла́д

**tender**[1] ['tendə] *n.* **1.** *comm.* дагаво́р-падра́д, тэ́ндар **2.** тэ́ндар (*на чыгунцы*)

**tender**[2] ['tendə] *n.* прапано́ва; **a loan tender** прапано́ва даць пазы́ку; **put out/make a tender for smth.** зрабі́ць яку́ю-н. прапано́ву

**tender**[3] ['tendə] *adj.* **1.** кво́лы, сла́бы, далі́ка́тны; **tender health** сла́бае здаро́ўе; **tender shoots** кво́лыя па́расткі; **a tender situation** далікáтнае стано́вішча; *That's rather a tender subject.* Гэта даволі далікатнае пытанне. **2.** чуллі́вы; **a tender wound** незаго́йная ра́на **3.** чу́лы, спага́длівы; **a tender heart** чу́лае сэ́рца **4.** пяшчо́тны, ласка́вы, мя́ккі; **tender love** пяшчо́тнае каха́нне; **a tender touch** лёгкі до́тык **5.** мя́ккі (*пра мяса*) **6. : tender blue** далікáтнаблакі́тны (*колер*) ♦ **at a tender age** у малады́м узро́сце

**tender**[4] ['tendə] *v. fml* прапано́ўваць; **tender for smth.** падава́ць зая́ўку на што-н.; **tender one's resignation** падава́ць у адста́ўку

**tenderfoot** ['tendəfʊt] *n.* (*pl.* **tenderfoots** *or* **tenderfeet**) *AmE, infml* навічо́к, «зялёны»

**tender-hearted** [ˌtendə'hɑːtɪd] *adj.* мяккасардэ́чны, до́бры; чу́лы, чуллі́вы

**tenderize,** *BrE* **-ise** ['tendəraɪz] *v.* адбіва́ць (*біфштэкс*); вытры́мліваць у во́цаце (*шашлык*)

**tenderloin** ['tendəlɔɪn] *n.* вы́разка (*пра мяса*), філе́

**tenderly** ['tendəli] *adv.* ла́скава, далікáтна, пяшчо́тна; чу́ла, чуллі́ва

**tenderness** ['tendənəs] *n.* **1.** пяшчо́та; чу́ласць, чуллі́васць; далікáтнасць **2.** сла́бае здаро́ўе; хварaві́тасць

**tendon** ['tendən] *n.* сухажы́лле; **strain a tendon** расця́гваць сухажы́лле; **Achilles tendon** ахі́лава сухажы́лле

**tendril** ['tendrəl] *n.* **1.** *bot.* ву́сік (*расл́іны*) **2.** *lit.* завіто́к (*валасоў*)

**tenement** ['tenəmənt] *n.* кватэ́ра або́ пако́й, які́ здае́цца ў арэ́нду; **tenement to let** здае́цца кватэ́ра (*аб'ява*)

**tenet** ['tenɪt] *n. fml* дагма́т, пры́нцып; пераканáнне; **the tenets of the Christian faith** пры́нцыпы хрысція́нскай ве́ры

**tenfold** ['tenfəʊld] *adv.* у дзе́сяць разо́ў больш, у дзесяцікра́тным паме́ры; **tenfold stronger** намно́га мацне́йшы

**tenner** ['tenə] *n. BrE, infml* дзесяціфу́нтавы банкно́т

**tennis** ['tenɪs] *n.* тэ́ніс; **play tennis** гра́ць у тэ́ніс

**tennis court** ['tenɪsˌkɔːt] *n.* тэ́нісны корт

**tennis elbow** [ˌtenɪs'elbəʊ] *n.* «тэ́нісны ло́каць» (*запаленне сустава ад гульні ў тэніс*)

**tennis player** ['tenɪsˌpleɪə] *n.* тэнісі́ст; тэнісі́стка

**tennis racket** ['tenɪsˌrækɪt] *n.* тэ́нісная раке́тка

**tennis shoes** ['tenɪsʃuːz] *n. pl.* тэнісо́ўкі

**tenor**[1] ['tenə] *n. fml* **1.** ход, напра́мак; накіру́нак; **the tenor of his life** укла́д яго́ жыцця́ **2.** агу́льны сэнс, змест; **the tenor of his remarks** агу́льны сэнс яго́ных заўва́г; **grasp the tenor of smth.** зразуме́ць сэнс чаго́-н.

**tenor**[2] ['tenə] *n. mus.* тэ́нар; **an operatic tenor** о́перны тэ́нар

**ten pence** [ˌten'pens] *n.* дзе́сяць пе́нсаў

**tenpin bowling** [ˌtenpɪn'bəʊlɪŋ] *n. sport* кегельба́н-аўтама́т, бо́ўлінг

**tense**[1] [tens] *n. ling.* час (*граматычны*); **the present tense** цяпе́рашні час

**tense**[2] [tens] *adj.* **1.** тугі́; наця́гнуты, нату́жаны, напя́ты; **tense muscles** тугі́я цяглі́цы **2.** напру́жаны; **a tense atmosphere** напру́жаная атмасфе́ра; **tense vowels** *ling.* напру́жаныя гало́сныя

**tense**[3] [tens] *v.* напру́жваць; напру́жвацца; **be/get tensed up** быць/станаві́цца напру́жаным;

*He tensed up his muscles for the leap.* Ён увесь падабраўся для скачка.

**tensile** [ˈtensaɪl] *adj. tech.* расцяжны́; **a tensile strain** дэфарма́цыя пры расцяжэ́нні; **tensile force** сі́ла напру́жанасці

**tension** [ˈtenʃn] *n.* **1.** нацяжэ́нне; напя́тасць, наця́гнутасць (*струны, вяроўкі і да т. п.*) **2.** напру́жанасць; няёмкасць, нязру́чнасць; **tensions in the family** сва́ркі ў сям'і; **racial tensions** ра́савыя супярэ́чнасці **3.** *electr.* напру́жанне

**tent** [tent] *n.* пала́тка; намёт, шацёр; **put up/pitch a tent** ста́віць пала́тку/разбіва́ць пала́тку

**tentacle** [ˈtentəkl] *n.* **1.** *zool.* шчу́пальца **2.** *bot.* ву́сік

**tentative** [ˈtentətɪv] *adj.* **1.** про́бны; нясме́лы; няўпэ́ўнены; **a tentative suggestion** нерашу́чая прапано́ва **2.** папярэ́дні (*пра дамову*)

**tenterhooks** [ˈtentəhʊks] *n. pl.* **:** ♦ **be on tenterhooks** паку́тліва чака́ць (*чаго-н.*); ≅ сядзе́ць як на іго́лках

**tenth** [tenθ] *num., n.* дзяся́ты; дзяся́тая ча́стка; *He is in his tenth.* Яму дзясяты гадок. ♦ **the tenth wave** дзявя́ты вал

**tent peg** [ˈtentpeg] *n.* кало́к для пала́ткі

**tenuous** [ˈtenjuəs] *adj.* **1.** то́нкі; **a tenuous thread** то́нкая ні́тка **2.** сла́бы; **a tenuous difference** нязна́чная ро́зніца; **a tenuous claim** пусцяко́вае патраба́ванне

**tenuously** [ˈtenjuəsli] *adj.* сла́ба; *The two ideas are only tenuously connected.* Паміж гэтымі дзвюма ідэямі амаль няма сувязі.

**tenure** [ˈtenjə] *n.* **1.** улада́нне, вало́данне; тэ́рмін вало́дання; **security of tenure** гаранты́йнае пра́ва на арэ́нду **2.** тэ́рмін знахо́джання (*на пасадзе*); тэ́рмін паўнамо́цтваў; **his four-year tenure as President** яго́ чатырохгадо́вы тэ́рмін на паса́дзе прэзідэ́нта

**tepee** [ˈtiːpiː] *n.* = **teepee**

**tepid** [ˈtepɪd] *adj.* цеплава́ты; **tepid soup** ама́ль хало́дны суп; **a tepid interest** уме́раны інтарэ́с

**tercentenary** [ˌtɜːsenˈtiːnəri] *n.* тры́ста гадо́ў, трохсотго́ддзе

**term** [tɜːm] *n.* **1.** тэ́рмін, вы́раз **2.** семе́стр; чвэрць **3.** тэ́рмін, час, перы́яд; **a presidential term** тэ́рмін прэзідэ́нцкіх паўнамо́цтваў ♦ **in the long/short term** за до́ўгі/каро́ткі час

**termagant** [ˈtɜːməgənt] *n.* сварлі́вая жанчы́на, меге́ра, фу́рыя

**terminable** [ˈtɜːmɪnəbl] *adj. fml* абмежава́ны ў ча́се; тэрміно́вы; *The contract is terminable in ten years.* Кантракт заканчваецца праз дзесяць гадоў.

**terminal**[1] [ˈtɜːmɪnl] *n.* **1.** канцава́я ста́нцыя; **Terminal I** канцава́я ста́нцыя ну́мар адзі́н **2.** *tech.* уво́д, вы́вад, кле́ма **3.** *comput.* тэрміна́л; **a display terminal** тэрміна́л з дыспле́ем; **a remote terminal** дыстанцы́йны тэрміна́л

**terminal**[2] [ˈtɜːmɪnl] *adj.* **1.** смяро́тны, невыле́чны; **a terminal case** смяро́тна хво́ры; **be in a terminal state** быць у перадсмяро́тным ста́не **2.** канцавы́, заключны; **a terminal tone** *ling* тэрміна́льны тон **3.** семе́стравы; **terminal examinations** экзаменацы́йная се́сія ў канцы́ семе́стра

**terminally** [ˈtɜːmɪnəli] *adv.* невыле́чна; **terminally ill** невыле́чна хво́ры

**terminate** [ˈtɜːmɪneɪt] *v. fml* канча́ць, зака́нчваць; зака́нчвацца; **terminate a marriage** касава́ць шлюб; **terminate a pregnancy** перапыня́ць цяжа́рнасць

**termination** [ˌtɜːmɪˈneɪʃn] *n. fml* **1.** кане́ц; завяршэ́нне; **the termination of a journey** кане́ц падаро́жжа; **bring smth. to termination** даве́сці што-н. да канца́, зака́нчваць што-н.; **the termination of a lease** сканчэ́нне тэ́рміну арэ́нды **2.** *med.* або́рт **3.** *ling.* канча́так (*слова*); канцава́я лі́тара або́ канцавы́ склад

**terminology** [ˌtɜːmɪˈnɒlədʒi] *n.* тэрмінало́гія

**terminus** [ˈtɜːmɪnəs] *n.* (*pl.* **termini**) канцава́я ста́нцыя (*аўтобусная або чыгуначная*)

**termite** [ˈtɜːmaɪt] *n. zool.* тэрмі́т

**terms** [tɜːmz] *n. pl.* **1.** умо́вы; **terms of a treaty/an agreement** умо́вы дамо́вы/дагаво́ра **2.** адно́сіны ♦ **be on good/friendly terms (with smb.)** быць у до́брых/прыя́зных адно́сінах (з кім-н.); **come to terms (with smb.)** прыйсці́ да зго́ды, прымі́ры́цца (з кім-н.); **in terms of smth.** з пу́нкта по́гляду чаго́-н.

**tern** [tɜːn] *n. zool.* кра́чка (*птушка*)

**terrace** [ˈterəs] *n.* **1.** на́сып **2.** трыбу́на стадыёна **3.** тэра́са, вера́нда **4.** *BrE* шэ́раг дамо́ў у адны́м бло́ку

**terraced house** [ˌterəstˈhaʊs] *n. BrE* дом у бло́ку, дом-тэра́са

**terracotta** [ˌterəˈkɒtə] *n.* тэрако́та

**terra firma** [ˌterəˈfɜːmə] *n. лацін.* су́ша, кантыне́нт; **terra firma incognita** невядо́мая краі́на

**terrain** [təˈreɪn] *n. fml* мясцо́васць, тэрыто́рыя; **mountainous terrain** гары́стая мясцо́васць

**terra incognita** [ˌterəɪnˈkɒgnɪtə] *n. лацін.* невядо́мая галіна́ (*ведаў*)

**terrapin** [ˈterəpɪn] *n. zool.* вадзяна́я чарапа́ха

**terrestrial** [təˈrestriəl] *adj.* **1.** зямны́; назе́мны; **terrestrial parts of the world** су́ша; **a terrestrial globe** зямны́ шар; гло́бус; **a terrestrial**

**telescope** наземны тэлескоп **2.** *zool., bot.* сухаземны (*пра жывёлу, расліну*)

**terrible** [ˈterəbl] *adj.* **1.** жудасны, жахлівы; **terrible news** жахлівыя навіны **2.** страшэнны; незвычайны, кашмарны; **a terrible frost** страшэнны мароз; *He is a terrible bore.* Ён невыносны зануда. **3.** *infml* вельмі, надзвычай кепскі; *I'm terrible at tennis.* Я вельмі кепскі тэнісіст.

**terribly** [ˈterəbli] *adv.* **1.** страшэнна, жахліва, жудасна; **be terribly afraid of smth.** страшэнна баяцца чаго-н. **2.** *infml* вельмі; *I'm terribly sorry!* Я вельмі шкадую!

**terrier** [ˈteriə] *n.* тэр'ер (*парода сабак*); **a Scotch terrier** скотч-тэр'ер

**terrific** [təˈrɪfɪk] *adj.* **1.** жудасны, страшэнны; **a terrific explosion** жудасны выбух **2.** *infml* цудоўны, выдатны; *It sounds terrific!* Гучыць цудоўна!

**terrifically** [təˈrɪfɪkəli] *adv. infml* вельмі, надзвычай; **terrifically rich** вельмі багаты

**terrified** [ˈterəfaɪd] *adj.* **(of, at)** баязлівы, напужаны, перапалоханы; *I'm terrified of the dark.* Я баюся цемры; *I'm terrified at the thought of being alone.* Мне страшна ад думкі застацца адной.

**terrify** [ˈterəfaɪ] *v.* пужаць, палохаць (*моцна*); **terrify smb. to death** запалохаць каго-н. да смерці

**terrine** [teˈriːn] *n. франц.* халодная страва з мяса птушкі, рыбы і г. д.

**territorial** [ˌterəˈtɔːriəl] *adj.* тэрытарыяльны; **territorial waters** тэрытарыяльныя воды

**territory** [ˈterətri] *n.* **1.** тэрыторыя; **inviolable territory** непарушная, недатыкальная тэрыторыя **2.** зямля; мясцовасць, раён; абшар зямлі; **fertile territory** пладародная мясцовасць **3. Territory** тэрыторыя (*адміністратыўная адзінка ў ЗША, Канадзе, Аўстраліі, што не мае права штата або правінцыі*) **4.** галіна, сфера (*навукі*); *That is his territory.* Гэта яго поле дзейнасці.

**terror** [ˈterə] *n.* **1.** жах, страх, жудасць; **strike terror into smb.** выклікаць у каго-н. страх **2.** тэрор **3.** *infml* гора, бяда; страхоцце; *My son is a real terror!* Мой сын – проста бяда!; **a holy terror** *infml* асоба з цяжкім характарам; надакучлівае дзіця

**terrorism** [ˈterərɪzəm] *n.* тэрарызм; **international terrorism** міжнародны тэрарызм

**terrorist** [ˈterərɪst] *n.* тэрарыст; тэрарыстка; **terrorist attacks** тэрарыстычныя акты

**terrorize,** *BrE* **-ise** [ˈteraraɪz] *v.* тэрарызаваць; запалохваць; **terrorize smb. into smth./doing smth.** прымушаць каго-н. тэрорам зрабіць што-н.

**terror-stricken** [ˈterəˌstrɪkn] *adj.* ахоплены жахам

**terror-struck** [ˈterəstrʌk] *adj.* = **terror-stricken**

**terry** [ˈteri] *n.* выцяжны ворс; **terry cloth** махровая тканіна (*для ручнікоў, халатаў і да т.п.*)

**terse** [tɜːs] *adj.* сціслы, кароткі (*пра стыль*); **a terse reply** лаканічны адказ; **terse lines** скупыя радкі

**tertiary** [ˈtɜːʃəri] *adj.* трацічны; **the Tertiary era** кайназойская эра; **tertiary education** *BrE* вышэйшая адукацыя; **tertiary burns** *med.* апёкі трэцяй ступені; **a tertiary stress** *ling.* дадатковы націск (*у амерыканскім варыянце англійскай мовы*)

**TESL** [ˈtesl] (*скар. ад* **Teaching English as a Second Language**) выкладанне англійскай мовы як другой

**TESOL** [ˈtiːsɒl, ˈtesɒl] (*скар. ад* **Teaching English to Speakers of Other Languages**) выкладанне англійскай мовы як замежнай

**tesselated** [ˈtesəleɪtɪd] *adj.* мазаічны; **a tesselated pavement** мазаічныя ходнікі; мазаічны тратуар

**test**[1] [test] *n.* **1.** выпрабаванне; проба, праверка, аналіз; тэст; **a test flight** выпрабавальны палёт **2.** кантрольная работа, тэст; **a driving test** іспыт на правы кіроўцы **3.** мерка, крытэрый ♦ **put smth./smb. to the test** выпрабоўваць, правяраць што-н./каго-н.; **stand the test of time** вытрымліваць праверку часам

**test**[2] [test] *v.* **1.** выпрабоўваць; правяраць; **test smb.'s eyesight** правяраць чый-н. зрок **2.** тэсціраваць, праводзіць кантрольную работу; **test smb. on smth.** тэсціраваць каго-н. па чым-н. ♦ **test the waters** правяраць сітуацыю

**testament** [ˈtestəmənt] *n.* **1.** *relig.* запавет; **the New/Old Testament** Новы/Стары Запавет **2.** завяшчанне; **the last will and testament** *law* апошняе завяшчанне

**testamentary** [ˌtestəˈmentri] *adj. fml* завяшчальны; **a testamentary estate** маёнтак, які перадаецца паводле завяшчання

**testator** [təˈsteɪtə] *n. law* завяшчальнік

**testatrix** [təˈsteɪtrɪks] *n. law* (*pl.* **testatrices**) завяшчальніца

**test ban** [ˈtestbæn] *n.* пагадненне аб забароне выпрабавання ядзернай зброі

**test case** [ˈtestkeɪs] *n. law* справа (*якая мае прынцыповае значэнне для вырашэння аналагічных выпадкаў, праблем*); справа-прэцэдэнт

**test drive**[1] [ˈtestdraɪv] *n.* пробная паездка (*на машыне*)

**test drive**[2] [ˈtestdraɪv] *v.* **(test drove, test driven)** рабіць пробную паездку (*на машыне*)

**tester** [ˈtestə] *n* **1.** выпрабавальнік; лабарант **2.** выпрабавальны прыбор, тэстар

**testifier** [ˈtestɪfaɪə] *n.* сведка

**testify** [ˈtestɪfaɪ] *v.* **1.** сведчыць, даваць паказанні; **testify against/in favour of smb.** даваць паказанні супраць/на карысць каго-н. **2.** пацвярджаць; **testify to the truth** пацвярджаць сваімі паказаннямі сапраўднасць (*чаго-н.*)

**testimonial** [ˌtestɪˈməʊniəl] *n.* характарыстыка; атэстат; пасведчанне; **a testimonial from a teacher** рэкамендацыя ад настаўніка

**testimony** [ˈtestɪməni] *n.* **1. (to)** сведчанне, доказ (*чаго-н.*); **in testimony of our respect** у доказ нашай пашаны **2.** *law* паказанне (*сведак*); **a false testimony** ілжывае паказанне; *His smile was a testimony of his disbelief.* Ягоная ўсмешка сведчыла пра недавер.

**test match** [ˈtestˌmætʃ] *n. sport* міжнародны матч па крыкеце або рэгбі

**test pilot** [ˈtestˌpaɪlət] *n.* лётчык-выпрабавальнік

**test tube** [ˈtestˌtjuːb] *n.* прабірка; **a test tube baby** дзіця, аплодненае ў прабірцы, «дзіця з прабіркі»

**testy** [ˈtesti] *adj. lit.* раздражняльны; запальчывы; **a testy temper** запальчывасць; **grow testy** раздражняцца

**tetanus** [ˈtetənəs] *n. med.* слупняк

**tetchy** [ˈtetʃi] *adj. lit.* раздражняльны, крыўдлівы; *There's no need to be so tetchy.* Няма чаго крыўдаваць.

**tête-á-tête** [ˌteɪtɑːˈteɪt] *n. франц.* тэт-а-тэт, спатканне, сустрэча або размова сам-насам; **have a tête-á-tête with smb.** паразмаўляць сам-насам з кім-н.

**tether**[1] [ˈteðə] *n.* вяроўка, прывязь, путы ♦ **come to the end of one's tether** *infml* дайсці да канца; дайсці да крайнасці

**tether**[2] [ˈteðə] *v.* прывязваць (*жывёліну*); *He tethered his horse to a tree.* Ён прывязаў каня да дрэва.

**Teutonic** [tjuːˈtɒnɪk] *adj.* тэўтонскі; прагерманскі; **the Teutonic Order** Тэўтонскі/ Нямецкі ордэн; **the Teutonic Knights** рыцары-тэўтонцы

**Texan** [ˈteksn] *n.* тэхасец

**text** [tekst] *n.* **1.** тэкст; рэдакцыя; **a revised text** выпраўлены, адрэдагаваны тэкст; **text linguistics** *ling.* лінгвістыка тэксту **2.** арыгінал, аўтэнтык; аўтэнтычны тэкст; **restore the text of "Beowulf"** аднавіць тэкст «Беавульфа» **3.** *relig.* тэкст, урывак; цытата з Біблії; **the received text** кананічны тэкст Евангелля **4.** падручнік, навучальны дапаможнік; **elementary texts on linguistics** падручнікі па ўводзінах у мовазнаўства

**textbook** [ˈtekstbʊk] *n.* падручнік; **a textbook on biology** падручнік па біялогіі; **a textbook example** хрэстаматыйны прыклад

**textile**[1] [ˈtekstaɪl] *n.* **1.** тканіна; тэкстыль **2.** *pl.* **textiles** тэкстыльная прамысловасць; **get a job in textiles** атрымаць працу ў галіне тэкстыльнай прамысловасці

**textile**[2] [ˈtekstaɪl] *adj.* тканы; ткацкі; **the textile art** ткацтва

**textual** [ˈtekstʃuəl] *adj.* тэкставы; **textual criticism** тэксталогія, філалагічная крытыка тэксту; **a textual error** памылка ў тэксце

**texture** [ˈtekstʃə] *n.* **1.** ступень шчыльнасці, грубасці тканіны; **a shirt of fine texture** кашуля з тонкай тканіны; **the texture of verse** тканіна верша **2.** будова (*тканіны*) **3.** тэкстура, структура; **the texture of a plant** будова расліны

**thalidomide** [θəˈlɪdəmaɪd] *n. med.* талідамід (*транквілізатар са шкодным пабочным уздзеяннем*); **thalidomide babies** ахвяры талідаміду

**than** [ðæn, ðən] *conj.* **1.** за; чым; *It was worse than I'd expected.* Гэта было горш, чым я чакаў. **2.** як, калі; **no sooner…than** як толькі; *No sooner had they left than the problems started.* Як толькі яны пайшлі, пачаліся праблемы; **rather than** хутчэй чым; *He would die rather than yield.* Ён хутчэй памрэ, чым саступіць. **2.** як, акрамя; апроч, апрача; **any person other than himself** любы, акрамя яго; **none other than** не хто іншы, як; **anywhere else than at home** хоць дзе, толькі не дома.

**thank** [θæŋk] *v.* дзякаваць ♦ **Thank you!** Дзякую вам!; *Thank you very much!* Вялікі вам дзякуй!; **thank God/goodness/heaven(s)!** дзякуй Богу!; **thank one's lucky stars** павіншаваць сябе з поспехам; **thank one's luck for smth.** дзякаваць лёсу за што-н.

**thankful** [ˈθæŋkfəl] *adj.* **(to)** удзячны; **a thankful heart** удзячнае сэрца; **endlessly thankful** бясконца ўдзячны

**thankfully** [ˈθæŋkfəli] *adj.* на шчасце, слава богу; *Thankfully, it's at last stopped raining.* Слава богу, дождж спыніўся.

**thankless** [ˈθæŋkləs] *adj.* няўдзячны; **a thankless role** няўдзячная роля

**thanks** [θæŋks] *n. pl.* удзячнасць, падзяка; **give thanks** дзякаваць; **return thanks** аддзякаваць; чытаць малітву (*перад ядой або пасля яды*) ♦ **(many) thanks!** (вялікі, шчыры) дзякуй!; **thanks to smb./smth.** дзякуючы каму-н./

чаму́-н.; **no thanks** дзя́куй, не трэ́ба (*формула ветлівай адмовы*)

**thanksgiving** [ˌθæŋksˈɡɪvɪŋ] *n.* падзя́ка; дзя́каванне; **Thanksgiving (Day)** Дзень падзя́кі Бо́гу (*чацвёрты чацвер лістапада ў ЗША, другі панядзелак кастрычніка ў Канадзе*)

**thank-you letter** [ˈθæŋkjuːˌletə] *n.* ліст з падзя́кай

**that**[1] [ðæt, ðət] *pron.* (*pl.* **those**) **1.** той, та́я, то́е; гэ́ты, гэ́та **2.** які́, што; *This is the girl that I saw.* Вось дзяўчына, якую я бачыў; **by that** гэ́тым са́мым; *What do you mean by that?* Што вы маеце на ўвазе? ♦ **that is (to say)** а і́менна, гэ́та зна́чыць, менаві́та; **that's that!** нічо́га не зро́біш!; вось так!; **that'll do!** хо́піць!; до́сыць!; **that's right!** пра́вільна!; **that's more like it!** гэ́та і́ншая спра́ва!; **oh that!** во каб!; **like that** такі́м чы́нам

**that**[2] [ðæt, ðət] *conj.* што; *It's possible that he hasn't received the letter.* Магчыма, што ён не атрымаў ліст; *Oh that I may see you once more!* О, калі б я мог убачыць вас яшчэ раз!; **except that** акрамя́ таго́, што; *It is right except that all the accents are omitted.* Правільна, калі не лічыць таго, што прапушчаны ўсе націскі.

**thatch**[1] [θætʃ] *n.* **1.** страха́ (*з саломы, трысьнягу і да т.п.*) **2.** *infml* густы́я валасы́, чупры́на

**thatch**[2] [θætʃ] *v.* крыць страху́ сало́маю, трыснягóм, трысцём

**thatcher** [ˈθætʃə] *n.* страха́р

**that's** [ðæts] *infml скар. ад* that is

**thaw**[1] [θɔː] *n.* **1.** адлі́га; **a silver thaw** галалёд, галале́дзіца; *A thaw has set in.* Пачалася адліга. **2.** пацяпле́нне (*у адносінах*); **a political thaw** паслабле́нне ў палі́тыцы

**thaw**[2] [θɔː] *v.* **1.** адтава́ць, адта́йваць; растава́ць; раста́йваць **2.** размаро́жваць; размаро́жвацца; растапля́ць; растапля́цца; *The ice has thawed.* Лёд растаў; *Frozen peas thaw quickly.* Зялёны гарошак хутка размарожваецца. **3.** станаві́цца сардэ́чным, дружалю́бным; *Some minutes later the atmosphere began to thaw.* Праз некалькі хвілін атмасфера стала больш дружалюбнай.

**the** [ðiː, ði, ðə] *азначальны артыкль*; **the roof of the house** страха́ (гэ́тага) до́ма; **the poet Keats** паэ́т Кітс; **the Paris of my youth** Пары́ж маёй маладо́сці; **Peter the Great** Пётр Вялі́кі; **the Jordans** Джо́рданы, сям'я́ Джо́рданаў; **the wounded** пара́неныя; **the one** той са́мы; **the Welsh** валі́йцы ♦ **the more the better** чым больш, тым лепш; **(all) the better :** *He looks* (*all*) *the better.* Ён выглядае яшчэ лепш; **so much the better** тым лепш, тым ле́пей

**theater** [ˈθɪətə] *AmE* = **theatre**

**theatre** [ˈθɪətə] *n.* **1.** тэа́тр; **an open-air theatre** тэа́тр пад адкры́тым не́бам; **the theatre of the absurd** тэа́тр абсу́рду; **a theatre bill** тэатра́льная афі́ша; **go to the theatre** хадзі́ць у тэа́тр; **frequent theatres** быць тэатра́лам **2. the theatre** тэатра́льнае маста́цтва; тэа́тр; **Goethe's theatre** тэа́тр Гётэ; *She wants to go into the theatre.* Яна хоча стаць актрысаю. **3.** *BrE* аперацы́йная; **a theatre sister** аперацы́йная сястра́ **4.** *fml* по́ле дзе́янняў (*асабліва ваенных*); *Europe was the theatre of the First World War.* Еўропа стала тэатрам ваенных дзеянняў падчас Першай сусветнай вайны.

**theatregoer** [ˈθɪətəˌɡəʊə] *n.* тэатра́л; тэатралка́

**theatregoing** [ˈθɪətəˌɡəʊɪŋ] *n.* наве́дванне тэа́траў; **the theatregoing public** тэатра́льная пу́бліка

**theatre-in-the-round** [ˌθɪətəɪnðəˈraʊnd] *n.* кру́глы тэа́тр (*з арэнай або сцэнай у цэнтры залы*)

**theatrical** [θɪˈætrɪkl] *adj.* **1.** тэатра́льны, сцэні́чны; **a theatrical agent** імпрэса́рыа, антрэпрэнёр; **a theatrical company** тэатра́льная тру́па; **theatrical scenery** тэатра́льныя дэкара́цыі; **a theatrical column** тэатра́льны раздзе́л; тэатра́льная кало́нка (*у газеце*) **2.** ненатура́льны, пазёрскі, паказны́; **theatrical manners** тэатра́льныя мане́ры; **a theatrical declamation** меладрамаы́чная дэклама́цыя

**theatrically** [θɪˈætrɪkəli] *adv.* **1.** тэатра́льна; **theatrically talented students** студэ́нты з до́брымі акцёрскімі да́нымі **2.** ненатура́льна, тэатра́льна, напы́шліва

**theatricals** [θɪˈætrɪklz] *n. pl.* тэатра́льныя пастано́ўкі; тэатра́льнае маста́цтва; **amateur theatricals** ама́тарскія спекта́клі; **private theatricals** прыва́тныя, ха́тнія спекта́клі

**thee** [ðiː, ði] *pron. poet., relig.* цябе́, табе́, тabо́й, табо́ю; **we beseech Thee, o Lord** мы про́сім Цябе́, Бо́жа

**theft** [θeft] *n.* крадзе́ж; **art theft** выкрада́нне тво́раў маста́цтва; **petty theft** дро́бны крадзе́ж; **commit (a) theft** укра́сці

**their** [ðeə] *pron.* іх, і́хні, і́хняя, і́хняе, і́хнія; свой, свая́, сваё, сваé

**theirs** [ðeəz] *pron.* іх, і́хні, і́хняя, і́хняе, і́хнія; *It's a favourite place of theirs.* Гэта іх улюбёнае месца.

**theism** [ˈθiːɪzəm] *n.* **1.** *relig.* тэі́зм **2.** манатэі́зм

**theist** [ˈθiːɪst] *n.* **1.** *relig.* тэі́ст **2.** манатэі́ст

**them** [ðem, ðəm] *pron.* іх, ім, і́мі; **with them** з імі; **about them** аб/пра іх; **it's them** гэ́та яны́; **them and us** яны́ і мы; *We should try to get away from a "them and us" attitude.* Мы па-

вінны старацца не падзяляць людзей на «сваі́х і чужы́х».

**thematic** [θɪˈmætɪk] *adj.* **1.** тэматы́чны; **a thematic catalogue** тэматы́чны катало́г **2.** *ling.* асноваўтвара́льны (*пра галосны*); **a thematic vowel** гало́сная асно́вы

**theme** [θiːm] *n.* **1.** тэ́ма, прадме́т (*размовы, твора*); **lectures on such themes** ле́кцыі на гэ́тыя тэ́мы **2.** *mus.* маты́ў, тэ́ма; **variations on a theme** варыя́цыі на тэ́му **3.** *ling.* асно́ва; тэ́ма; **theme and rheme** тэ́ма і рэ́ма

**theme park** [ˈθiːmˌpɑːk] *n.* парк адпачы́нку з атракцыёнамі (*які мае адну тэму*)

**theme song** [ˈθiːmˌsɒŋ] *n. mus.* лейтматы́ў

**theme tune** [ˈθiːmˌtjuːn] *n.* = **theme song**

**themselves** [ðəmˈselvz] *pron.* **1.** сябе́, сабе́; сабо́й, сабо́ю; -ся; *The children hurt themselves sliding downhill.* Дзеці параніліся, калі каталіся з горкі. **2.** са́мі ♦ **(all) by themselves** адны́, без ніко́га

**then¹** [ðen] *adj.* тагача́сны; **the then president** тагача́сны прэзідэ́нт; **the then existing system** сістэ́ма, што існава́ла ў той час

**then²** [ðen] *adv.* **1.** тады́, у той час; **then and there/there and then** адра́зу, зра́зу, тут жа **2.** пасля́, по́тым; **by then** да таго́ ча́су; **from then on** з таго́ ча́су, з той пары́; **now and then** час ад ча́су; **what then?** ну і што? **3.** у такі́м вы́падку, зна́чыцца ♦ **but then/then again…** але́ з і́ншага бо́ку...

**thence** [ðens] *adv. fml, dated* адту́ль; ад таго́ ме́сца; **two miles thence** на адле́гласці дзвю́х міль адту́ль

**theocracy** [θiˈɒkrəsi] *n.* тэакра́тыя

**theologian** [ˌθiːəˈləʊdʒən] *n.* тэ́олаг, багасло́ў

**theological** [ˌθiːəˈlɒdʒɪkl] *adj.* тэалагі́чны, багасло́ўскі; **a theological college** тэалагі́чны кале́дж; **theological virtues** біблейскія дабрачы́ннасці (*вера, надзея, любоў*)

**theology** [θiˈɒlədʒi] *n.* тэало́гія; тэалагі́чная сістэ́ма або́ тэ́рыя; **rival theologies** тэало́гіі-супе́рніцы

**theorem** [ˈθɪərəm] *n.* тэарэ́ма; **by theorem** паво́дле тэарэ́мы; **a reciprocal theorem** адваро́тная тэарэ́ма; **prove the theorem** даказа́ць тэарэ́му

**theoretical** [θɪəˈretɪkl] *adj.* **1.** тэарэты́чны; **theoretical arithmetic** тэ́рыя лі́чбаў; **theoretical learning** тэарэты́чныя ве́ды **2.** аналіты́чны, схі́льны да тэарэтызава́ння; **a theoretical mind** аналіты́чны ро́зум

**theorist** [ˈθɪərɪst] *n.* тэарэ́тык

**theorize,** *BrE* **-ise** [ˈθɪəraɪz] *v.* **(about/on)** тэарэтызава́ць; будава́ць тэ́рыі; тэарэты́чна прадка́зваць

**theory** [ˈθɪəri] *n.* **1.** тэ́рыя; **a coherent theory** паслядо́ўная тэ́рыя; **essays in theory** тэарэты́чныя на́рысы; **falsify a theory** фальсіфікава́ць тэ́рыю; *It sounds fine in theory, but will it work?* Гэта добра гучыць тэарэтычна, але ці будзе напраўду працаваць? **2.** *infml* меркава́нне, дапушчэ́нне; здага́дка; по́гляд; *What's your theory of the case?* Што вы думаеце на гэты конт?

**therapeutic** [ˌθerəˈpjuːtɪk] *adj.* тэрапеўты́чны; лячэ́бны; **therapeutic drugs** ле́кі

**therapeutics** [ˌθerəˈpujːtɪks] *n.* тэрапі́я, лячэ́нне

**therapist** [ˈθerəpɪst] *n.* ура́ч-тэрапе́ўт; **a beauty therapist** касмето́лаг; **a speech therapist** лагапе́д

**therapy** [ˈθerəpi] *n.* **1.** лячэ́нне, тэрапі́я **2.** *pl.* **therapies** ме́тады лячэ́ння

**there¹** [ðeə] *adv.* **1.** там, туды́; **from there** адту́ль; **up to there** да таго́ ме́сца; **there is, there are** ёсць, ма́ецца; *There is no time.* Няма часу. *There are a lot of flowers in the garden.* У садзе багата кветак. **2.** вось; **there he is** вось і ён; **there and back** туды́ і наза́д ♦ **there and then** адра́зу, зра́зу, тут жа; **there you are /there you go** *infml* вось вазьмі́; вось ба́чыш

**there²** [ðeə] *interj.* ну, вось; *There! I have put my foot in it!* Ну, вось я і папаўся! ♦ **there! there!** ну, ну!; **so there!** вось так!

**thereabouts** [ˌðeərəˈbaʊts] *adv.* паблі́зу; прыблі́зна; *I'll be at home at 8 or thereabouts.* Я буду дома а восьмай гадзіне ці каля таго.

**thereafter** [ˌðeərˈɑːftə] *adv. fml* пасля́ гэ́тага; з таго́ ча́су, пасля́

**thereby** [ˌðeəˈbaɪ] *adv. fml* такі́м чы́нам, з дапамо́гай гэ́тага; *He wished to travel and thereby study the customs of other countries.* Ён хацеў падарожнічаць і такім чынам знаёміцца са звычаямі іншых краін.

**therefore** [ˈðeəfɔː] *adv.* тамý, вось чамý; такі́м чы́нам; *I think, therefore I am.* Я думаю, значыць я існую.

**therein** [ˌðeərˈɪn] *adv. law, fml* тут; там; у гэ́тых адно́сінах; **the earth and all therein** зямля́ і ўсё, што існу́е на ёй

**thereinafter** [ˌðeərɪnˈɑːftə] *adv. law, fml* ніжэ́й (*у дакументах*)

**thereof** [ˌðeərˈɒv] *adv. fml* гэ́тага, таго́; з таго́, з гэ́тага; **any part thereof** любáя ягó ча́стка

**thereto** [ˌðeəˈtuː] *adv. law, fml* акрамя́ таго́; да таго́ ж; **the house and the garden pertaining thereto** дом з са́дам

**thereunder** [ˌðeərˈʌndə] *adv. law, fml* ніжэ́й (*у дакументах*); пад гэ́тым, пад тым

**thereupon** [ˌðeərəˈpɒn] *adv. fml* **1.** на тым, на гэ́тым; у адно́сінах да таго́; *There is much to be said thereupon.* Можна многа сказаць наконт гэтага. **2.** усле́д за тым, за гэ́тым

**there's** [ðeəz, ðəz] *скар. ад* there is

**therm** [θɜ:m] *n. phys.* тэрм (*адзінка цеплыні*)

**thermal** [ˈθɜ:ml] *adj.* **1.** цеплавы́, тэрмі́чны; **a thermal station** цеплава́я электраста́нцыя; **thermal treatment** тэрмаапрацо́ўка **2.** гара́чы; **thermal springs** гара́чыя крыні́цы; **a thermal shock** цеплавы́ ўдар

**thermodynamics** [ˌθɜ:məʊdaɪˈnæmɪks] *n.* тэрмадына́міка

**thermo-electric** [ˌθɜ:məʊɪˈlektrɪk] *adj.* тэрмаэлектры́чны

**thermometer** [θəˈmɒmɪtə] *n.* гра́дуснік, тэрмо́метр; **a Celsius/Centigrade thermometer** тэрмо́метр Цэ́льсія; **a Fahrenheit thermometer** тэрмо́метр Фарэнге́йта; **thermometer reading** паказа́нні тэрмо́метра; *The thermometer is standing at 10°.* Тэрмометр паказвае 10° (вышэй за нуль).

**thermonuclear** [ˌθɜ:məʊˈnju:kliə] *adj.* тэрмая́дзерны; **a thermonuclear bomb** тэрмая́дзерная бо́мба

**thermoplastic** [ˌθɜ:məʊˈplæstɪk] *n.* тэрмапла́ст

**thermos (flask)** [ˈθɜ:məsˌflæsk] *n.* тэ́рмас

**thermos bottle** [ˈθɜ:məsˌbɒtl] *n. AmE* = **thermos**

**thermostat** [ˈθɜ:məstæt] *n.* тэрмаста́т

**thesaurus** [θɪˈsɔ:rəs] *n.* (*pl* **thesauruses** *or* **thesauri**) ідэаграфі́чны сло́ўнік; тэза́ўрус; **the thesaurus of slang** тэза́ўрус слэ́нгу

**these** [ði:z] *pl.* → **this**

**theses** [ˈθi:si:s] *pl.* → **thesis**

**thesis** [ˈθi:sɪs] *n.* (*pl.* **theses**) **1.** дысерта́цыя; **a doctoral/PhD thesis** до́ктарская дысерта́цыя; **a master's thesis** магі́старская дысерта́цыя; **uphold/defend a thesis** абараня́ць дысерта́цыю **2.** тэ́зіс

**thespian** [ˈθespiən] *n.* тра́гік; трагі́чная актры́са

**they** [ðeɪ] *pron.* яны́; **they say** ка́жуць

**they'd** [ðeɪd] *скар. ад* they had; they would

**they'll** [ðeɪl] *скар. ад* they will

**they're** [ˈðeɪə] *скар. ад* they are

**they've** [ðeɪv] *скар. ад* they have

**thick[1]** [θɪk] *n.* гушчыня́; разга́р; пе́кла ♦ **in the thick of smth.** у са́май гу́шчы чаго́-н.; **through thick and thin** наперако́р усі́м перашко́дам

**thick[2]** [θɪk] *adj.* **1.** то́ўсты; **thick with dust** пакры́ты то́ўстым сло́ем пы́лу; **thick type** тлу́сты шрыфт **2.** густы́ (*лес, суп і да т. п.*); **thick clouds** ця́жкія хма́ры; *The air was thick with snow.* Падаў густы снег; *The street was thick with traffic.* Вуліца была забіта машынамі. **3.** ні́зкі, хры́плы (*пра голас*) ♦ **have a thick head** *infml* быць тупава́тым; **have a thick skin** быць таўстаску́рым; **give smb. a thick ear** *BrE, infml* даць каму́-н. у ву́ха; **a bit too thick** гэ́та ўжо зана́дта, залі́шне; **as thick as two short planks** *BrE, infml* ≅ тупы́ як абу́х; **as thick as thieves** *infml* ≅ іх вадо́й не разалье́ш; неразлу́чныя (сябры)

**thick[3]** [θɪk] *adv.* гу́ста, то́ўстым сло́ем; *Snow was lying thick on the ground.* Зямля пакрылася глыбокім снегам. ♦ **lay it on thick** *infml* перабо́льшваць; залі́шне хвалі́ць або́ га́ніць; **thick and fast** ху́тка, адзі́н за адны́м; *Offers to help are coming in thick and fast.* Прапановы ідуць адна за адною; *His heart beat thick and fast.* Ягонае сэрца моцна білася.

**thick-and-thin** [ˌθɪkəndˈθɪn] *adj.* ве́рны, надзе́йны; **a friend through thick-and-thin** адда́ны ся́бра

**thicken** [ˈθɪkən] *v.* **1.** рабі́цца таўсце́йшым; таўсце́ць; патаўшча́ць; патаўшча́цца; *The ice is thickening.* Лёд становіцца таўсцейшым. **2.** рабі́ць больш густы́м, згушча́цца; *The storm is thickening*. Збіраецца бура; *The crowd thickened every moment.* Натоўп павялічваўся кожную хвіліну.

**thickener** [ˈθɪkənə] *n.* згушча́льнік (*у кулінарыі*)

**thicket** [ˈθɪkɪt] *n.* гушча́р, за́раснік

**thick-headed** [ˌθɪkˈhedɪd] *adj.* дурны́, неразу́мны; тупагало́вы, тупы́; *He's thick-headed.* У яго галава мякінай набітая.

**thickly** [ˈθɪkli] *adv.* **1.** гу́ста; **thickly grown** гу́ста заро́слы; *The snow fell thickly.* Ішоў густы снег. **2.** шчы́льна, мо́цна; **thickly inhabited** густанасе́лены

**thickness** [ˈθɪknəs] *n.* **1.** гушчыня́; **the thickness of the population** гушчыня́ насе́льніцтва **2.** слой, сто́лка; пласт; таўшчыня́; **the thickness of felt** слой фе́тру

**thickset** [θɪkˈset] *adj.* **1.** карана́сты, дзябёлы, мажны́, каржакава́ты **2.** гу́ста заса́джаны, гу́ста заро́слы

**thick-skinned** [ˌθɪkˈskɪnd] *adj.* **1.** з то́ўстаю ску́рай (*пра фрукты*) **2.** таўстаску́ры, неспага́длівы (*пра чалавека*)

**thick-witted** [ˌθɪkˈwɪtɪd] *adj.* = **thick-headed**

**thief** [θi:f] *n.* (*pl.* **thieves**) зло́дзей; зладзе́йка; **like a thief in the night** як начны́ зло́дзей ♦ **thieves' Latin** зладзе́йскі жарго́н; **set a thief to catch a thief** даручы́ць зло́дзею злаві́ць зло́дзея

**thieves** [θi:vz] *pl.* → **thief**

**thigh** [θaɪ] *n.* сцягно́; **break one's thigh** злама́ць сцегнаву́ю ко́стку

**thill** [θɪl] *n.* агло́бля

**thimble** [ˈθɪmbl] *n.* напа́рстак

**thimbleful** [ˈθɪmblfʊl] *n.* напа́рстак (*чаго-н.*); **a thimbleful of brandy** кро́пелька брэ́ндзі

**thin[1]** [θɪn] *adj.* **1.** то́нкі; *The line between success and failure is thin.* Мяжа паміж поспехам і няўдачай хісткая. **2.** худы́; то́нкі, танклявы; **grow thin** пахудзе́ць **3.** рэ́дкі; сла́бы; ненасы́чаны, разба́ўлены; **thin ale** сла́бае пі́ва; **thin milk** разве́дзенае малако́; **thin soup** рэ́дкі суп **4.** рэ́дкі; **thin hair** рэ́дкія валасы́; *He's going a bit thin on top.* У яго ўжо ёсць невялікая лысіна. **5.** малако́лькасны, нешматлі́кі; *The house is a bit thin tonight.* Сёння ў тэатры даволі мала народу. **6.** непераканаў́чы, хі́сткі; **a thin excuse** сла́бая, непераканаў́чая адгаво́рка; **a thin story** ба́йка, ка́зка; *That is too thin.* Гэта шыта белымі ніткамі. **7.** сла́бы; невялі́кі, нязна́чны; **(a) thin applause** рэ́дкія апладысме́нты; *My patience is wearing thin.* Маё цярпенне заканчваецца. ♦ **be skating/walking on thin ice** ≅ хадзі́ць па лязе́; **have a thin skin** быць танкаску́рым; **have a thin time (of it)** перажыва́ць ця́жкія хвілі́ны, мець непрые́мнасці; **thin as a rail/as a rake/as a whipping post** ≅ худы́ як шчэ́пка; **(be) thin on the ground** нешматлі́кі; малако́лькасны; **vanish/disappear into thin air** разве́яцца як імгла́/тума́н/дым; раста́ць як мро́іва

**thin[2]** [θɪn] *v.* **1.** рабі́ць то́нкім; рабі́цца то́нкім **2.** завастра́ць, вастры́ць; **thin a pencil** вастры́ць ало́вак **3.** прарэ́джваць (*пасевы*) **4.** радзе́ць, радчэ́ць; **a head thinned of hair** галава́, яка́я лысее **5.** скарача́ць; скарача́цца (*па колькасці*); пусце́ць, рабі́цца бязлю́дным; *The village thinned.* Вёска апусцела. **6.** разбаўля́ць; рассе́йвацца; *The fog is thinning.* Туман падымаецца.

**thin away** [ˌθɪnəˈweɪ] *phr. v.* рабі́ць танчэ́йшым; рабі́цца танчэ́йшым; худзе́ць

**thin down** [ˌθɪnˈdaʊn] *phr. v.* **1.** = **thin away** **2.** скарача́ць; скарача́цца (*пра колькасць*); *The village thinned down.* Вёска абязлюдзела. **3.** разбаўля́ць; **thin down the paint** разбаўля́ць фа́рбу **4.** рабі́ць худы́м; *This diet will thin you down.* На гэтай дыеце вы пахудзееце.

**thin[3]** [θɪn] *adv.* то́нка; **cut smth. thin** нараза́ць што-н. то́нкімі лу́стамі; **spread the butter thin** нама́зваць ма́сла то́нкім сло́ем

**thine** [ðaɪn] *pron. poet., relig.* твой, твая́, тваё; твае́; *The fault is thine.* Віна твая.

**thing** [θɪŋ] *n.* **1.** рэч, прадме́т; **bathing things** рэ́чы для купа́ння; **tea things** ча́йны по́суд; *It's just the thing we need. infml* Гэта якраз тое, што нам патрэбна. **2.** факт, ідэ́я; **a silly thing** глу́пства **3.** спра́ва, учы́нак; **a difficult thing to do** ця́жкая спра́ва **4.** істо́та, ствара́энне; **a living thing** жыва́я істо́та; **all things considered** з улі́кам усяго́; **as things stand** як скла́дваюцца абста́віны ♦ **it's a good thing (that)** до́бра, што...; **do one's own thing** *infml* рабі́ць па-сво́йму, на свой лад; **for one thing…** па-пе́ршае...; **How are things?** Як маецеся?; **the thing is…** спра́ва, прабле́ма ў тым...; **my dear old thing** *infml* мой шано́ўны; **poor thing!** небара́ка!

**think** [θɪŋk] *v.* **(thought) 1.** ду́маць, разважа́ць, мы́сліць **2.** лічы́ць, меркава́ць **3. (of)** прыдумля́ць, прыду́мваць ♦ **think aloud** разважа́ць уго́лас; **think better (of)** перадумаць, змяні́ць наме́р; **think well/poorly of smb./smth.** быць до́брай/ке́пскай ду́мкі пра каго́-н./што-н.; **think nothing of it!** дарма́, ні́чо́га!; **think twice about (doing) smth.** паду́маць дво́йчы перш чым зрабі́ць што-н.

**think out** [ˌθɪŋkˈaʊt] *phr.v.* праду́мваць, абду́мваць; **a very well thought out plan** ве́льмі до́бра праду́маны план

**think through** [ˌθɪŋkˈθruː] *phr.v.* абду́мваць

**think up** [ˌθɪŋkˈʌp] *phr.v.* прыду́мваць; **think up a story** выду́мваць гісто́рыю

**thinkable** [ˈθɪŋkəbl] *adj.* магчы́мы, мажлі́вы; *It's hardly thinkable.* Гэта наўрад ці магчыма.

**thinker** [ˈθɪŋkə] *n.* **1. :** *He is a slow thinker.* Ён тугадум. **2.** мыслі́цель, мысля́р; філо́саф

**thinking** [ˈθɪŋkɪŋ] *n.* **1.** ро́здум, развáга; **do some (hard) thinking** паду́маць як ма́е быць **2.** по́гляд; ду́мка ♦ **in/to my way of thinking, in my thinking** на мой по́гляд

**thinking machine** [ˈθɪŋkɪŋməˌʃiːn] *n.* электро́нны мозг

**think piece** [ˈθɪŋkˌpiːs] *n. infml* агля́дны арты́кул, агля́д наві́н (*у газеце, часопісе*)

**think tank** [ˈθɪŋkˌtæŋk] *n.* «мазгавы́ цэнтр»; калекты́ў навуко́ўцаў, навуко́ва-дасле́дчы інстыту́т

**thinly** [ˈθɪnli] *adv.* то́нка, рэ́дка; **a thinly populated area** маланасе́леная мясцо́васць

**thinner** [ˈθɪnə] *n.* рэ́чыва для разрэ́джвання

**thin-skinned** [ˌθɪnˈskɪnd] *adj.* **1.** танкаску́ры **2.** лёгка абра́злівы

**third[1]** [θɜːd] *n.* **1.** трэ́цяга (*дата*); **on the third of May** трэ́цяга ма́я **2.** тро́йка (*адзнака*); **get a third** атрыма́ць тро́йку (*ва ўніверсітэце*) **3.** трэ́цяя ча́стка; **two thirds** дзве трэ́ція, дзве траці́ны

**third**[2] [θɜːd] *num.* трэ́ці; *He is in his third year.* Яму трэці гадо́к; **the third floor** чацвёрты паве́рх; **the third largest town** трэ́ці па велічыні́ го́рад; **the third person** *ling.* трэ́цяя асо́ба

**third-class** [ˌθɜːdˈklɑːs] *adj.* трэ́цяга кла́са (*на параходзе, самалёце*); **a third-class carriage** ваго́н трэ́цяга кла́са

**third-degree** [ˌθɜːddɪˈgriː] *adj.* трэ́цяй ступе́ні, трэ́цяга кла́су; **a third-degree burn** апёк трэ́цяй ступе́ні

**thirdly** [ˈθɜːdli] *adv.* па-трэ́цяе

**third party** [ˌθɜːdˈpɑːti] *n. law* трэ́цяя асо́ба, трэ́ці бок; **a third party risk** ры́зыка, яко́й падвярга́ецца трэ́цяя асо́ба

**third person** [ˌθɜːdˈpɜːsn] *n.* **: the third person** *ling.* трэ́цяя асо́ба

**third-rate** [ˌθɜːdˈreɪt] *adj.* трэ́цяга гату́нку; трэцяра́дны; та́нны, ке́пскі; *It is a third-rate film.* Гэта даволі пасрэдны фільм.

**third world** [ˌθɜːdˈwɜːld] *n.* **the Third World** трэ́ці свет; **third-world countries** краі́ны трэ́цяга све́ту (*Афрыкі, Азіі*)

**thirst**[1] [θɜːst] *n.* **1.** сма́га; **satisfy one's thirst** наталя́ць смагу; **die of thirst** памiра́ць ад сма́гі **2. (for)** пра́га; мо́цнае жада́нне; **a/the thirst for knowledge** пра́га да ве́даў

**thirst**[2] [θɜːst] *v.* **1.** хаце́ць піць, паку́таваць ад сма́гі **2. (for)** пра́гнуць, паку́таваць ад жада́ння; **thirst for wealth** пра́гнуць бага́цця

**thirsty** [ˈθɜːsti] *adj.* **1.** сасма́глы, перасо́хлы; *I am thirsty.* Я хачу піць. **2. (for)** пра́гны (да); **thirsty for power** пра́гны да ўла́ды

**thirteen** [ˌθɜːˈtiːn] *num., n.* трына́ццаць; *He is thirteen years old.* Яму трынаццаць гадоў. ♦ **the thirteen superstition** забабо́н, звя́заны з лі́чбай трына́ццаць

**thirteenth** [ˌθɜːˈtiːnθ] *num., n.* трына́ццаты; *He is in his thirteenth year.* Яму ідзе трынаццаты год.

**thirtieth** [ˈθɜːtiəθ] *num., n.* трыцца́ты; трыцца́тая ча́стка; *He arrived thirtieth.* Ён прыехаў трыццатым.

**thirty** [ˈθɜːti] *num., n.* тры́ццаць; *It happened in the thirties.* Гэта здарылася ў трыццатыя гады; *She is in her thirties.* Ёй трыццаць з нечым гадоў.

**this**[1] [ðɪs] *pron.* (*pl.* **these**) **1.** гэ́та; *What is this?* Што гэта? **2.** гэ́та, гэ́ты; *Look at this picture.* Паглядзі на гэтую карціну; **this afternoon** сёння днём; **this very moment** у гэ́ты мо́мант, якра́з, цяпе́р; **this day last year** у гэ́ты ж са́мы дзень у міну́лым го́дзе; **in this day and age** у на́шыя дні; *What's all this noise?* Што гэта за шум? ♦ **this and that** той або́ і́ншы; **this way** сюды́; **like this** так вось, такі́м чы́нам; *Do it like this.* Рабі гэта так.

**this**[2] [ðɪs] *adv.* так; да тако́й ступе́ні; **this high** вось тако́й вышыні́

**thistle** [ˈθɪsl] *n.* **1.** *bot.* чартапало́х, асо́т **2.** чартапало́х (*эмблема Шатландыі*)

**thong** [θɒŋ] *n.* **1.** рэ́мень **2.** бізу́н

**thorax** [ˈθɔːræks] *n. anat.* (*pl.* **thoraxes** or **thoraces**) грудна́я клётка

**thorn** [θɔːn] *n.* **1.** *bot.* калю́чка; це́рні; **a crown of thorn** цярно́вы вяно́к **2.** калю́чая раслі́на ♦ **a thorn in one's flesh/side** прычы́на пастая́ннага раздражне́ння; бяльмо́ на во́ку

**thorny** [ˈθɔːni] *adj.* **1.** калю́чы; заро́слы калю́чым кусто́ўем; **a thorny bush** калю́чы куст, цярно́ўнік; **a thorny subject** небяспе́чная тэ́ма **2.** ця́жкі, цярні́сты; **tread a thorny path** ісці́ цярні́стым шля́хам

**thorough** [ˈθʌrə] *adj.* **1.** пі́льны; грунто́ўны; дасканалы; **thorough knowledge** глыбо́кія ве́ды; **give the room a thorough cleaning** до́бра прыбра́ць пако́й **2.** *infml* зако́нчаны; вычарпа́льны, по́ўны; **a thorough scoundrel** страшэ́нны няго́днік; *You must have a thorough change.* Вам трэба поўнасцю змяніць абставіны.

**thoroughbred** [ˈθʌrəbred] *n.* чыстакро́ўная, паро́дзістая жывёліна

**thoroughfare** [ˈθʌrəfeə] *n.* ажы́ўленая ву́ліца, гало́ўная арт́эрыя (*горада*); аўтастра́да; **"No thoroughfare"** «Праезд закры́ты» (*надпіс*)

**thoroughly** [ˈθʌrəli] *adv.* **1.** да канца́, зусі́м; абсалю́тна, ца́лкам, по́ўнасцю; **thoroughly reliable** абсалю́тна надзе́йны **2.** як след, грунто́ўна; **do smth. thoroughly** зрабі́ць што-н. грунто́ўна

**thou** [ðaʊ] *pron. poet., dated* ты; **hearest thou?** ці чу́еш ты?

**though**[1] [ðəʊ] *adv.* адна́к, тым не ме́ней; усё ж; *Did he do it though?* Няўжо ён гэта зрабіў?; *I believe him though.* Я ўсё ж веру яму.

**though**[2] [ðəʊ] *conj.* хоць ♦ **as though** як бы́ццам; **even though** хоць бы, на́ват

**thought**[1] [θɔːt] *n.* **1.** мы́сленне; разва́га, ро́здум **2.** ду́мка; **at the very thought** пры адно́й ду́мцы; **collect one's thoughts** сабра́цца з ду́мкамі **3.** наме́р, ідэ́я ♦ **as quick as thought** ≅ ху́ткі як мала́нка; **be lost in deep thought** паглыбля́цца ў ду́мкі; **a beauty beyond thoughts** незвыча́йная прыгажо́сць; **on second thoughts** до́бра паду́маўшы; паду́маўшы двойчы

**thought**[2] [θɔːt] *past, p.p.* → **think**

**thoughtful** [ˈθɔːtfəl] *adj.* **1.** задумéнны, задýмлівы; удýмлівы **2.** увáжлівы, чýлы; **be thoughtful of others** клапацíцца пра íншых

**thoughtless** [ˈθɔːtləs] *adj.* **1.** неабдýманы, неразвáжлівы; **thoughtless acts** неабдýманыя ўчы́нкі; *He did not mean any harm, he was simply thoughtless.* Ён не хацеў вас пакрыўдзіць, ён проста не падумаў. **2.** няўвáжлівы (*да каго-н.*); *It is thoughtless of her to keep us waiting so long.* Вельмі нявлетліва з яе боку прымушаць нас чакаць так доўга.

**thousand** [ˈθaʊzənd] *num., n.* ты́сяча; **a thousand and one** бéзліч, незлічóнае мнóства; **a thousand apologies** ты́сяча прабачэ́нняў

**thousandth** [ˈθaʊzəndθ] *num.* ты́сячны (*па ліку*); **a thousandth part** мізэ́рная дóля

**thrash** [θræʃ] *v.* біць, збівáць; паганя́ць пýгай; сцябáць бізунóм

**thrash out** [ˌθræʃˈaʊt] *phr.v.* грунтóўна абмяркóўваць; *They thrashed out a solution.* Яны грунтоўна выпрацавалі рашэнне.

**thrashing** [ˈθræʃɪŋ] *n.* лупцóўка; **give smb. a good thrashing** даць камý-н. чóсу, ды́хту; дóбра адлупцавáць

**thread**[1] [θred] *n.* **1.** нíтка; **a strong thread** мóцная нíтка **2.** ніць (*успамíнаў*); **the thread of an intrigue** ніць інтры́гі; **the thread of one's thoughts** ход дýмак ♦ **take up/pick up the thread of a conversation** узнавíць размóву; **hang by a (single) thread** ≅ вісéць на валаскý (*пра стан здароўя*)

**thread**[2] [θred] *v.* **1.** зацягваць (*нітку ў іголку*); нанíзваць (*пацеркі*); усóўваць (*магнітную стужку*) **2.** пралáзіць; прахóдзіць; **thread one's way through (smth.)** пракладáць шлях праз (што-н.); прабірáцца праз (што-н.)

**threadbare** [ˈθredbeə] *adj.* **1.** знóшаны; працёрты да нíткі **2.** стары́, збíты, не нóвы; **a threadbare argument** стары́ аргумéнт

**threat** [θret] *n.* **1.** пагрóза; **an idle threat** пустáя пагрóза; **the threat of war** пагрóза вайны́; **use threats** паграж́аць **2.** небяспéка, грóзнае прадвéсце; *There is a threat of rain*. Збіраецца на дождж.

**threaten** [ˈθretn] *v.* **1.** пагражáць, гразíць; **threaten an employee with dismissal** гразíць слýжачаму звальнéннем **2.** гразíць, быць пагрóзай; **the species threatened with extinction** вíды, што знахóдзяцца пад пагрóзаю знікнéння; *The clouds threaten rain.* Хмары прадвяшчаюць дождж.

**three** [θriː] *num., n.* тры, трóйка ♦ **by/in twos and threes** па двóе і трóе; **the three Rs** *infml* чытáнне, пісьмó, арыфмéтыка

**three-dimensional** [ˌθriːdɪˈmenʃənl] *adj.* трохмéрны, стэрэаскапíчны; **the three-dimensional study of the problem** усебакóвае даслéдаванне праблéмы

**threefold** [ˈθriːfəʊld] *adv.* утрая́, утрайнé (*больш*); **increase (by) threefold** павялíчвацца ўтрая́

**three-ply** [ˈθriːplaɪ] *adj.* у тры стóлкі, у тры пласты́

**thresh** [θreʃ] *v.* малацíць (*збожжа*)

**threshing** [ˈθreʃɪŋ] *n.* малацьбá; **a threshing machine** малацíлка; **a threshing floor** ток

**threshold** [ˈθreʃhəʊld] *n.* **1.** парóг, **cross the threshold** пераступáць парóг **2.** пачáтак, пярэ́дадзень; **on the threshold of a new era** на пачáтку нóвай э́ры; **on the threshold of war** на мяжы́ вайны́; **the threshold of sensitivity** парóг адчувáльнасці

**threw** [θruː] *past* → **throw**

**thrice** [θraɪs] *adv. fml, dated* трóйчы, тры разы́ зáпар; **thrice as much** утрая́ больш; **thrice happy** вéльмі шчаслíвы

**thrift** [θrɪft] *n.* ашчáднасць, беражлíвасць, эканóмнасць; *By thrift she managed to get along.* Дзякуючы сваёй беражлівасці яна змагла пратрымацца.

**thriftless** [ˈθrɪftləs] *adj.* марнатрáўны, неэканóмны

**thrifty** [ˈθrɪfti] *adj.* ашчáдны, эканóмны, беражлíвы; **a thrifty housewife** беражлíвая гаспады́ня

**thrill**[1] [θrɪl] *n.* хвалявáнне; узрýшанасць, узрушэ́нне; **a thrill of joy** рáдаснае хвалявáнне; **give a thrill** хвалявáць; *The film has a lot of thrills.* Гэты фільм казыча нервы.

**thrill**[2] [θrɪl] *v.* хвалявáць; хвалявáцца; казытáць нéрвы, узрýшваць; **thrill with joy** замірáць ад рáдасці; **thrill with admiration** млець ад захаплéння ♦ **be thrilled to bits** *infml* быць вéльмі задавóленым

**thriller** [ˈθrɪlə] *n.* сенсацы́йны рамáн абó фільм, баявíк; тры́лер; **a thriller writer** áўтар баевікóў

**thrilling** [ˈθrɪlɪŋ] *adj.* хвалю́ючы, захапля́льны; **a thrilling detective story** вострасюжэ́тны дэтэкты́ў

**thrive** [θraɪv] *v.* **(thrived** *or* **throve, thrived** *or* **thriven) (on)** квітнéць, бýйна расцí, рабíць пóспехі; *He throve on trade.* Ён разбагацеў гандлюючы.

**thriven** [ˈθrɪvn] *p.p.* → **thrive**

**throat** [θrəʊt] *n.* **1.** гóрла, глóтка; гартáнь; **a lump in one's throat** камя́к у гóрле; *I have a sore throat.* Мне баліць горла; **clear one's throat** адкáшліваццa **2.** вýзкі прахóд; жаралó вулкáна, гарлавíна ♦ **cut one's own throat** шкóдзіць сабé, рабíць сабé шкóду; **jump**

**down smb.'s throat** не дава́ць каму́-н. і сло́ва сказа́ць

**throb**[1] [θrɒb] *n.* стук, пульса́цыя, хвалява́нне; **throbs of joy** ра́даснае хвалява́нне; **throbs of one's heart** біццё сэ́рца

**throb**[2] [θrɒb] *v.* **1. (with)** мо́цна бі́цца, пульсава́ць; *The heart throbs with excitement.* Сэрца калоціцца ад хвалявання. **2.** трэ́сціся, трапята́ць, калыха́цца; *The leaves are throbbing in the wind.* Лісце трапечацца ад ветру.

**throes** [θrəʊz] *n. pl.* паку́ты; **the throes of childbirth** паку́ты пры ро́дах ♦ **in the throes of smth.** *infml* у паку́тах чаго́-н.

**thrombosis** [θrɒmˈbəʊsɪs] *n. med.* трамбо́з

**throne** [θrəʊn] *n.* **1.** трон, прасто́л; **come to/mount/ascend the throne** заня́ць прасто́л; **an address from the throne** тро́нная прамо́ва **2. the throne** ула́да караля́, карале́вы; **the heir to the throne** насле́днік прасто́ла

**throng**[1] [θrɒŋ] *n. fml* нато́ўп, скo̧пішча людзе́й; **throngs in the streets** нато́ўпы на ву́ліцах

**throng**[2] [θrɒŋ] *v. fml* **(with)** то́ўпіцца, збіра́цца нато́ўпам; напаўня́цца нато́ўпам

**throttle**[1] [ˈθrɒtl] *n. tech.* рэгуля́тар, дро́сель; **at full throttle** на по́ўнай ху́ткасці, на ўсю моц

**throttle**[2] [ˈθrɒtl] *v.* душы́ць; спыня́ць; **throttle freedom** душы́ць свабо́ду

**throttle down** [ˌθrɒtlˈdaʊn] *phr.v.* паме́ншыць ху́ткасць (*язды*)

**through**[1] [θruː] *adj.* прамы́, бесперася́дачны, транзі́тны; **a through train** прамы́ цягні́к; **a through highway** ву́ліца без святлафо́раў

**through**[2] [θruː] *adv.* по́ўнасцю, ца́лкам, наскро́зь; дарэ́шты, дашчэ́нту; **all day through** цэ́лы дзень; **be through (with)** скo̧нчыць, зако́нчыць; **get through** прабіра́цца; **get wet through** прамо́кнуць да ні́ткі ♦ **through and through** ца́лкам, по́ўнасцю, дашчэ́нту

**through**[3] [θruː] *prep.* **1.** (*паказвае на рух праз што-н.*) праз, скрозь; **through the crowd** праз нато́ўп; **through the forest** праз лес; **look through the window** глядзе́ць у акно́ **2.** (*паказвае на распаўсюджанне руху на якой-н. тэрыторыі*) праз, па; **all through the country** па ўсёй кра́іне; *They drove through Poland.* Яны ехалі па Польшчы. **3.** (*паказвае на дзеянне на працягу нейкага часу*) на праця́гу; **all through the night** усю́ ноч **4.** (*паказвае на пасрэдніка або крыніцу*) праз, з, ад, з дапамо́гаю; *He explained everything through an interpreter.* Ён растлумачыў усё праз перакладчыка; **through personal experience** з асабі́стага до́сведу **5.** дзя́куючы, з прычы́ны; **through carelessness** праз нядба́йнасць **6.** (*пераадоленне перашкоды, небяспекі і да т.п.*) праз; *He has got through his exams.* Ён здаў экзамены; *The proposal was put through Congress.* Прапанова была праведзена ў кангрэсе.

**throughout**[1] [θruːˈaʊt] *adv.* паўсю́ль, паўсю́дна, усю́ды, скрозь; *He was wrong throughout.* Ён ва ўсім памыляўся; *Today has been fine throughout.* Сёння ўвесь дзень стаяла добрае надвор'е.

**throughout**[2] [θruːˈaʊt] *prep.* праз; **throughout the world** па ўсім све́це; **throughout the year** уве́сь год

**throve** [θrəʊv] *past* → **thrive**

**throw**[1] [θrəʊ] *n.* **1.** кі́данне, кідо́к; **a throw of 100 metres** кідо́к на 100 ме́траў; **at a single throw** адны́м ма́хам, адра́зу; **have a throw at smth.** накі́нуцца на што-н. **2.** лёгкая накі́дка на кана́пу ♦ **at a stone's throw** на невялі́кую адле́гласць, як кі́нуць во́кам

**throw**[2] [θrəʊ] *v.* **(threw, thrown)** кі́даць, скіда́ць, падкіда́ць, падкі́дваць; **throw a glance** кі́нуць во́кам; **throw oneself** кі́дацца; **throw open the door** расчыня́ць дзве́ры на́сцеж ♦ **throw doubt(s) on/upon smth.** браць што-н. пад сумне́нне; **throw light on/upon smth.** праліва́ць святло́ на што-н.; **throw oneself at someone** накі́двацца на каго́-н.; **throw oneself into smth.** ца́лкам аддава́цца чаму́-н.

**throw about** [ˌθrəʊəˈbaʊt] *phr.v.* раскіда́ць, раскі́дваць

**throw away** [ˌθrəʊəˈweɪ] *phr.v.* выкіда́ць, выкі́дваць; **throw away a chance** губля́ць, прапуска́ць магчы́масць

**throw in** [ˌθrəʊˈɪn] *phr.v.* уно́сіць (*прапанову*)

**throw off** [ˌθrəʊˈɒf] *phr.v.* скіда́ць, скі́дваць; **throw the cold off** пазбаўляцца ад на́сморку

**throw out** [ˌθrəʊˈaʊt] *phr.v.* выкіда́ць, выкі́дваць; **throw out a hint** зрабі́ць намёк; кі́нуць заўва́гу

**throw up** [ˌθrəʊˈʌp] *phr.v.* **1.** *infml* ванітава́ць **2.** пакіда́ць, адмаўля́цца (*ад працы*)

**thrown** [θrəʊn] *p.p.* → **throw**[2]

**thru** [θruː] *prep. AmE, infml* = **through**[3]; **Tuesday thru Friday** з аўто́рка да пя́тніцы

**thrush** [θrʌʃ] *n.* дрозд

**thrust**[1] [θrʌst] *n.* **1. the thrust** дух, па́фас; **the thrust of his argument** па́фас яго́ аргуме́нта **2.** штуршо́к; уда́р; **with a thrust** адны́м уда́рам **3.** *tech.* ця́га, сі́ла ця́гі

**thrust**[2] [θrʌst] *v.* **(thrust) 1.** ле́зці, прала́зіць, праціска́цца, прапіха́цца **2.** засо́ўваць, утыка́ць; **thrust smb. aside** адштурхо́ўваць каго́-н.; **thrust smth. on smb.** навя́зваць што-н. каму́-н.

**thud**[1] [θʌd] *n.* глухі́ гук, стук; цяжкі́ ўдар

**thud²** [θʌd] *v.* валíцца; пáдаць з глухíм стýкам; *My heart started to thud.* Маё сэрца пачало глуха біцца.

**thug** [θʌg] *n.* забóйца, галаварэ́з; гáнгстар, банды́т

**thumb¹** [θʌm] *n.* вялíкі пáлец (*рукі, рукавіцы*) ♦ **be all (fingers and) thumbs** быць вéльмі няспры́тным, нязгрáбным; **give smb. thumbs up** крычáць «брáва»; **under smb.'s thumb** пад пятóй у кагó-н.

**thumb²** [θʌm] *v.* **1.** гартáць (*кнігу*) **2.** прасíць падвéзці, галасавáць; **thumb a ride/a lift** галасавáць, падня́ўшы вялíкі пáлец

**thumbnail** [ˈθʌmneɪl] *n.* пазнóгаць вялíкага пáльца; **a thumbnail sketch** карóткае апісáнне, нáкід

**thumbtack** [ˈθʌmtæk] *n. AmE* кнóпка

**thump¹** [θʌmp] *n.* **1.** удáр (*кулаком*) **2.** глухí гук ад удáру; глухí шум (*машыны*)

**thump²** [θʌmp] *v.* **1.** стýкаць, мóцна біць; бíцца; *My heart was thumping wildly.* Маё сэрца цяжка білася. **2.** ця́жка, з шýмам рýхацца; грýкаць; *He thumped up the stairs.* Ён з шумам падымаўся па сходах.

**thunder¹** [ˈθʌndə] *n.* **1.** гром; грымóты; **a crash/clap of thunder** удáр грóму; *There's thunder in the air.* Набліжаецца бура. **2.** грýкат; гул; раскáцісты гук; **the thunder of cannons** грýкат кананáды; **a/the thunder of applause** гром апладысмéнтаў ♦ **go to thunder!** кацíся да д'я́бла!; **steal smb's thunder** перахапíць у кагó-н. ініцыяты́ву

**thunder²** [ˈθʌndə] *v.* **1.** грымéць, грукатáць; *The heaven thunders.* Грыміць гром. **2. (against/at)** гавары́ць, гнéўна крычáць; **thunder against corruption** выкрывáць карýпцыю; *His voice thundered in my ears.* Яго гнеўны голас гучаў у вушах.

**thunderbolt** [ˈθʌndəbəʊlt] *n.* удáр грóму ♦ **like a thunderbolt from a clear sky** як гром з я́снага нéба

**thunderclap** [ˈθʌndəklæp] *n.* **1.** удар грóму **2.** нечакáнасць, неспадзявáнасць

**thundercloud** [ˈθʌndəklaʊd] *n.* навальнíчная хмáра

**thunderer** [ˈθʌndərə] *n. myth.* **the Thunderer** грамавéржац ( *Юпітар, Тор, Пярун*)

**thundering** [ˈθʌndərɪŋ] *adj.* громападóбны, аглушáльны; **a thundering lie** нахáбная хлусня́

**thunderous** [ˈθʌndərəs] *adj.* **1.** навальнíчны; *It was a thunderous day.* Увесь дзень грукатаў гром. **2.** грамавы́; аглушáльны; мóцны; **thunderous applause** аглушáльныя апладысмéнты

**thunderstorm** [ˈθʌndəstɔːm] *n.* навальнíца

**thunderstruck** [ˈθʌndəstrʌk] *adj.* аглýшаны, ашалóмлены; як грóмам стýкнуты; **thunderstruck with misfortune** ашалóмлены няўдáчай

**Thur(s).** *пісьмовае скар. ад* **Thursday** чацвéр

**Thursday** [ˈθɜːzdeɪ] *n.* чацвéр; **Holy Thursday** Вялíкі Чацвéр (*у перадвелікодны тыдзень*)

**thus** [ðʌs] *adv. fml* **1.** так, гэ́так, такíм чы́нам; **as thus** вось так; **thus and thus** так і так **2.** такíм чы́нам, гэ́так, пагэ́таму **3.** настóлькі ♦ **thus far** да гэ́тай пары́; **thus much** стóлькі

**thwart** [θwɔːt] *v.* перашкаджáць; разлáджваць; *I was thwarted at every turn.* На кожным кроку мяне чакалі перашкоды.

**thy** [ðaɪ] *pron. poet., relig., dated* твой, твая́, тваё, твае́; свой, свая́, сваё, свае́; *Thy kingdom come.* Хай прыйдзе Царства Тваё.

**thyme** [taɪm] *n. bot.* чабóр

**thyroid** [ˈθaɪrɔɪd] *n. anat.* шчытападóбная залóза

**tiara** [tiˈɑːrə] *n.* дыядэ́ма

**tic** [tɪk] *n. med.* цік; **a tic in one's leg** сýтарга ў назé; *She has a nervous tic.* У яе нервовы цік.

**tick¹** [tɪk] *n. zool.* клешч

**tick²** [tɪk] *n.* **1.** памéта, «птýшачка» **2.** цíканне (*гадзінніка*) **3.** *infml* мóмант, хвілíнка; імгнéнне; **in a tick/in two ticks** як бáчыш, у адзíн мóмант

**tick³** [tɪk] *v.* **1.** цíкаць (*пра гадзіннік*) **2.** памячáць «птýшачкай»

**tick away** [ˌtɪkəˈweɪ] *phr.v.* бéгчы, хýтка ісцí, ляцéць (*пра час*); *Meanwhile the minutes kept ticking away.* Між тым хвіліны ўсё ляцелі.

**tick by** [ˌtɪkˈbaɪ] *phr.v.* = **tick away**

**tick off** [ˌtɪkˈɒf] *phr.v.* **1.** рабíць памéту, стáвіць «птýшачку» **2.** *infml* даць наганя́й

**ticket** [ˈtɪkɪt] *n.* білéт, талóн, квітóк; **an entrance ticket** уваходны квітóк; **a single ticket** білéт у адзíн канéц; **a return ticket** зварóтны білéт; **a season ticket** сезóнны білéт; **order/reserve a ticket** закáзваць, замаўля́ць білéт; **"Admission by ticket only"** «Уваход толькі па квітках» (*надпіс*) **2.** цэ́ннік, этыкéтка; **a price ticket** этыкéтка з цанóй **3.** квітáнцыя, нумарóк, талóн; **a cloakroom ticket** нумарóк у гардэрóбе; **a left-luggage ticket** нумарóк на багáж **4.** паведамлéнне пра штраф; **a ticket for speeding** паведамлéнне пра штраф за перавышэ́нне хýткасці **5.** *AmE* спіс кандыдáтаў на вы́бары; **a general ticket** агýльны спіс

**tickle¹** [ˈtɪkl] *n.* кóзыт, казытáнне; *He has a tickle in the throat.* У яго пяршыць у горле.

**tickle²** [ˈtɪkl] *v.* **1.** казытáць, ласкатáць; калóцца; раздражня́ць; *My nose tickles.* У мяне казыча ў носе. **2.** прынóсіць задавальнéнне; захап-

ля́ць; **tickle one's ears** це́шыць слых ♦ **be tickled pink** *infml* мо́цна ра́давацца, быць у захапле́нні; **tickle smb.'s fancy** *infml* забаўля́ць, весялі́ць каго́-н.

**ticklish** [ˈtɪklɪʃ] *adj.* **1.** адчува́льны да казыта́ння; **a ticklish person** чалаве́к, які́ баі́цца казыта́ння **2.** даліка́тны, склада́ны; **a ticklish question** даліка́тнае пыта́нне; *The whole thing is very ticklish.* Справа патрабуе вялікага такту.

**tidal** [ˈtaɪdl] *adj.* звя́заны з прылі́вам і адлі́вам; **a tidal basin** прылі́ўны басе́йн; **tidal waters** во́ды прылі́ву

**tidal wave** [ˌtaɪdlˈweɪv] *n.* **1.** прылі́ўная хва́ля **2. (of)** хва́ля пачу́ццяў, захапле́нняў; **a tidal wave of popular indignation** магу́тная хва́ля наро́днага гне́ву

**tide** [taɪd] *n.* **1.** марскі́ прылі́ў і адлі́ў; **at high tide** у мо́мант прылі́ву; **at low tide** у мо́мант адлі́ву; *The tide is coming.* Прыліў набліжаецца. **2.** плынь, цячэ́нне, напра́мак ♦ **go/row/swim against the tide** ісці́ су́праць цячэ́ння; **turn the tide** змяні́ць ход падзе́й

**tide over** [ˌtaɪdˈəʊvə] *phr.v.* пераадо́льваць; **tide the business over** аго́раць спра́ву; *The money helped us to tide the winter over.* Тыя грошы дапамаглі нам пратрымацца гэтай зімой.

**tidiness** [ˈtaɪdɪnəs] *n.* аха́йнасць, акура́тнасць

**tidings** [ˈtaɪdɪŋz] *n. pl. dated* наві́ны, ве́сткі; **bear evil tidings** не́сці ке́пскія наві́ны

**tidy**[1] [ˈtaɪdi] *adj.* **1.** акура́тны, аха́йны; **keep smth. tidy** трыма́ць што-н. у пара́дку **2.** *infml* зна́чны, неблагі́, няке́пскі; *He did a tidy bit.* Ён добра папрацаваў.

**tidy**[2] [ˈtaɪdi] *v.* **1.** прыбіра́ць, пара́дкаваць, даво́дзіць да ла́ду, прыво́дзіць у пара́дак; **tidy one's hair** папраўля́ць валасы́

**tidy away** [ˌtaɪdiəˈweɪ] *phr.v.* прыбіра́ць, ста́віць на ме́сца

**tidy up** [ˌtaɪdiˈʌp] *phr.v.* прыбіра́ць; **tidy oneself up** прыбіра́цца

**tie**[1] [taɪ] *n.* **1.** га́льштук **2.** сту́жка, шнуро́к; *The dog broke its tie.* Сабака сарваўся з прывязі. **3.** *pl.* **ties** ву́зы, су́вязі; **family ties** сяме́йныя ву́зы; **ties of friendship** сябро́ўскія су́вязі **4.** цяжа́р; кло́пат, даку́ка **5.** *sport* гульня́ ўні́чыю; *The game ended in a tie.* Гульня скончылася ўнічыю. **6.** *mus.* знак легата

**tie**[2] [taɪ] *v.* **1.** звя́зваць, прывя́зваць; **tie smb.'s hands** звя́зваць каму́-н. ру́кі **2.** завя́зваць вузло́м; перавя́зваць, шнурава́ць; **tie a piece of ribbon into a knot** завя́зваць сту́жку ба́нтам **3.** абцяжа́рваць, абмяжо́ўваць, перашкаджа́ць; **tied to time** абмежава́ны ў ча́се; *He is tied to the job.* Ён прывязаны да працы. ♦ **tie the knot** *infml* ажані́цца; **tie oneself into/in knots** заблы́твацца ў прабле́мах, ця́жкасцях; **tie smb.'s tongue** прымуша́ць каго́-н. трыма́ць язы́к за зуба́мі; **tie smb. hand and foot** звя́зваць каго́-н. па рука́х і нага́х

**tie down** [ˌtaɪˈdaʊn] *phr.v.* прывя́зваць; звя́зваць; абмяжо́ўваць; **be tied down by rules** быць звя́заным пра́віламі

**tie in** [ˌtaɪˈɪn] *phr.v.* мець су́вязь; *This ties in with what I said.* Гэта адпавядае таму, што я сказаў.

**tie on** [ˌtaɪˈɒn] *phr.v.* прывя́зваць (*этыкетку*)

**tie up** [ˌtaɪˈʌp] *phr.v.* **1.** звя́зваць; прывя́зваць; перавя́зваць **2.** быць звя́заным; удзе́льнічаць; аб'ядно́ўваць намага́нні **3.** спыня́ць; перашкаджа́ць, замаро́жваць (*справу*); *The strike tied up the production for a week.* Праз забастоўку вытворчасць спынілася на тыдзень.

**tiepin** [ˈtaɪpɪn] *n.* шпі́лька для га́льштука

**tier** [tɪə] *n.* рад, я́рус; **arrange smth. in tiers** уладко́ўваць, размяшча́ць што-н. у не́калькі я́русаў; **rise/stand in tiers** уздыма́цца я́русамі

**tie-up** [ˈtaɪʌp] *n.* **1.** су́вязь, саю́з; **a tie-up with Ford** су́вязь з кампа́ніяй Форд **2.** *AmE* спыне́нне, затры́мка; **a traffic tie-up** про́бка (*у руху*)

**TIFF** [tɪf] *n. comput.* (*скар. ад* **tagged image file format**) фарма́т захава́ння ра́стравых графі́чных выя́ў

**tiff** [tɪf] *n.* суты́чка; сва́рка (*нязначная*); *She had a tiff with her boy-friend.* Яна трохі пасварылася са сваім сябрам.

**tiger** [ˈtaɪɡə] *n.* тыгр; **a red tiger** пу́ма, кугуа́р ♦ **work like a tiger** апанта́на працава́ць; **ride a tiger** жартава́ць з агнём

**tigerish** [ˈtaɪɡərɪʃ] *adj.* тыгры́ны; лю́ты; крыважэ́рны; **tigerish stripes** пало́скі як у ты́гра

**tight**[1] [taɪt] *adj.* **1.** ту́га завя́заны, тугі́; **take a tight grip on smth.** мо́цна ўхапі́цца за што-н.; **keep a tight hold of smth.** мо́цна трыма́цца за што-н. **2.** це́сны, ву́зкі, шчы́льны; *These boots are too tight for me.* Гэтыя чаравікі занадта цесныя для мяне. **3.** набі́ты, запо́ўнены, напру́жаны; **a tight schedule** шчы́льны гра́фік **4.** напя́ты, наця́гнуты; **drum tight** тугі́ як бараба́н **5.** ця́жкі; напру́жаны; **a tight situation** ця́жкая сітуа́цыя; *Money is tight.* Не хапае грошай. **6.** стро́гі, жо́рсткі **7.** *BrE, infml* скупы́, скна́рлівы; *She is very tight with money.* Яна скнара на грошы. ♦ **keep a tight rein** нала́дзіць жо́рсткі кантро́ль

**tight**[2] [taɪt] *adv.* мо́цна, ту́га, шчы́льна, це́сна; *Hold tight!* Трымайся моцна! ♦ **sit tight** цвёрда трыма́цца, не здава́ць сваі́х пазі́цый

**tighten** [ˈtaɪtn] *v.* **1.** сціска́ць; сціска́цца **2.** наця́гваць; наця́гвацца; заця́гваць; заця́гвацца; **tighten a nut hard** закруці́ць га́йку да ўпо́ру; **tighten discipline** падцягну́ць дысцыплі́ну ♦ **tighten one's belt** зацягну́ць папру́гу, падрыхтава́цца да го́ршых часо́ў

**tighten up** [ˌtaɪtnˈʌp] *phr.v.* **1.** сціска́ць, замацо́ўваць **2.** станаві́цца больш пі́льным, стро́гім; *The rules were tightened up.* Правілы сталі больш жорсткімі.

**tight-fisted** [ˌtaɪtˈfɪstɪd] *adj.* скупы́, скна́рлівы, скна́рны

**tight-knit** [ˌtaɪtˈnɪt] *adj.* дру́жны (*пра групу людзей*)

**tight-lipped** [ˌtaɪtˈlɪpt] *adj.* маўклі́вы; скры́тны

**tightly** [ˈtaɪtli] *adv.* = **tight²**

**tightness** [ˈtaɪtnəs] *n.* напру́жанасць, напру́жанне; напя́тасць; *I feel some tightness across the chest.* Мне цяжка ў грудзях.

**tightrope** [ˈtaɪtrəʊp] *n.* ту́га напя́ты кана́т; **a tightrope walker** канатахо́дзец ♦ **tread/walk a tightrope** ісці́ над бе́зданню; хадзі́ць па лязу́ бры́твы; рызыкава́ць

**tights** [taɪts] *n. pl.* калго́ткі; трыко́; **a pair of woollen tights** па́ра шарсцяны́х калго́так

**tigress** [ˈtaɪgrəs] *n.* тыгры́ца

**tike** [taɪk] *n. infml* малы́ш, малы́шка

**tilde** [ˈtɪldə] *n.* ты́льда

**tile¹** [taɪl] *n.* чарапі́ца, дахо́ўка; плі́тка; ка́фля; **a tiled roof** чарапі́чны дах ♦ **go out on the tiles** *slang* гуля́ць, ве́сці разгу́льны лад жыцця́; **spend a night on the tiles** бадзя́цца ўсю ноч напралёт

**tile²** [taɪl] *v.* пакрыва́ць плі́ткаю; крыць дахо́ўкаю

**till¹** [tɪl] *n.* скры́нка для гро́шай, ка́са ♦ **be caught with one's hand in the till** быць схо́пленым за руку́ на ме́сцы злачы́нства

**till²** [tɪl] *v. lit.* ара́ць; абрабля́ць, працава́ць на зямлі́; **till a farm** працава́ць на фе́рме

**till³** [tɪl] *prep.* да; **till now** да гэ́тага ча́су; **work till late at night** працава́ць дапазна́; *He will not come till after dinner.* Ён прыйдзе толькі пасля абеду.

**till⁴** [tɪl] *conj.* **1.** паку́ль (не); *Wait till the rain has stopped.* Пачакай, пакуль не скончыцца дождж. **2.** *AmE* без (*пра час*); **five minutes till three** без пяці́ хвілі́н тры

**tiller** [ˈtɪlə] *n.* **1.** земляро́б, фе́рмер **2.** ру́мпель **3.** *AmE* культыва́тар

**tilt¹** [tɪlt] *n.* **1.** нахі́л; **be on/at a tilt** нахіля́цца; **give smth. a tilt** нахіля́ць што-н. **2.** суты́чка; **have a tilt at smb.** напада́ць на каго́-н. ♦ **at full tilt** по́ўным хо́дам, з усяе́ мо́цы

**tilt²** [tɪlt] *v.* **1.** нахіля́ць; нахіля́цца; схіля́ць; схіля́цца; **tilt one's head** ускі́дваць галаву́ **2.** біць; бі́цца; **tilt at smb./smth.** напада́ць, накі́двацца на каго́-н./што-н. з кры́тыкай ♦ **tilt at windmills** змага́цца з ветраны́мі млына́мі, быць донкіхо́там

**timber¹** [ˈtɪmbə] *n.* **1.** драўні́на; будаўні́чы лес; лесаматэрыя́л; **timber industry** лясна́я прамысло́васць; **a timber mill** тарта́к; **fell timber** нарыхто́ўваць лес **2.** брус; бэ́лька; бервяно́ **3.** *pl.* **timbers** лес на пні

**timber²** [ˈtɪmbə] *v.* абшыва́ць дрэ́вам; *The door was timbered with oak.* Дзверы былі абшыты дубовымі дошкамі.

**timbre** [ˈtæmbə] *n. mus., ling.* тэмбр

**time¹** [taɪm] *n.* **1.** час; **all the time** уве́сь час; **for a long/short time** до́ўга/нядо́ўга; **in half the time** у два разы́ хутчэ́й; **kill time** марнава́ць час **2.** гадзі́на; **(at) what time?** а яко́й гадзі́не?; *What's the time?* Колькі часу? **3.** пара́, тэ́рмін; **at the time** тады́, у той час; **it's time to go to bed** час кла́сціся спаць **4.** раз; **every time** ко́жны раз **5.** эпо́ха, перы́яд; **at my time of life** на маі́м вяку́ **6.** *mus.* тэмп, такт ♦ **ahead of time** датэрміно́ва; **at all times** заўсёды; **at a time** за адзі́н раз, адра́зу; **at one time** адно́йчы; не́калі; **at other times** і́ншым ра́зам, у і́ншы час; **at times** ча́сам; **be behind time** спазні́цца; **be behind the times** адста́ць ад мо́ды; **for a time** ненадо́ўга; **for the time being** паку́ль што; **from time to time** зноў і зноў; калі́-некалі́; **have a good time** до́бра право́дзіць час; ба́віцца; **it is high/about time** даўно́ наспе́ў час; **in time** неўзаба́ве; до́сыць ху́тка; **in good time** у такт; сваі́м ча́сам; **in no time** імгне́нна, во́бмігам; **in one's own good time** у свой час; **on time** своечасо́ва; у пару́; **keep good time** спра́ўна ісці́ (*пра гадзіннік*); **many a time** мно́га разо́ў, ча́ста, часцяко́м; **nine times out of ten** ама́ль заўжды́; **take one's time** не спяша́цца; **time after time** час ад ча́су; раз-по́раз; **time and again** зноў і зноў

**time²** [taɪm] *v.* **1.** вызнача́ць, выбіра́ць час; прымярко́ўваць, прыстасо́ўваць (*што-н. да пэўнага часу*); **time oneself well** уда́ла вы́браць час для прые́зду; *The remark was well timed.* Заўвага была зроблена да месца. **2.** засяка́ць час; *Time how long it takes to do it.* Адзнач, колькі патрэбна часу, каб гэта зрабіць.

**time bomb** [ˈtaɪmbɒm] *n.* **1.** бо́мба запаво́ленага дзе́яння **2.** выбухо́вая сітуа́цыя

**time card** [ˈtaɪmˌkɑːd] *n.* рабо́чы лісто́к, хранака́рта, та́бель (*уліку адпрацаваных гадзін*)

**timekeeper** [ˈtaɪmˌkiːpə] *n.* **1.** та́бельшчык **2.** гадзі́ннік **3.** *sport* таймкі́пер ♦ **be a good/bad timekeeper** быць пунктуа́льным/спазня́цца

**timeless** [ˈtaɪmləs] *adj.* бяско́нцы, ве́чны; **her timeless beauty** яе́ неўміру́чая прыгажо́сць; **timeless art** непадула́днае ча́су маста́цтва

**time limit** [ˈtaɪmˌlɪmɪt] *n.* рэгла́мент; апо́шні тэ́рмін; **set a time limit** назна́чыць апо́шні тэ́рмін

**timely** [ˈtaɪmli] *adj.* своечасо́вы; **a timely joke** тра́пны жарт

**time-out** [ˌtaɪmˈaʊt] *n. sport* тайм-а́ўт, міну́тны перапы́нак; **a time-out for substitution** перапы́нак для заме́ны ігракó̞ў

**timer** [ˈtaɪmə] *n.* **1.** хронаметры́ст **2.** та́ймер, гадзі́ннік (*у бытавым прыборы*)

**time span** [ˈtaɪmˌspæn] *n.* перы́яд ча́су, праме́жак ча́су

**time-saving** [ˈtaɪmˌseɪvɪŋ] *n.* экано́мія ча́су

**time-server** [ˈtaɪmˌsɜːvə] *n. derog.* прыстасава́нец, апартуні́ст

**times** [taɪmz] *prep.* памно́жаны на; *Three times two is six.* Тры на два раўняецца шэсць.

**timetable** [ˈtaɪmteɪbl] *n.* гра́фік, раскла́д; **on the timetable** у раскла́дзе; *I've got a very busy timetable this week.* У мяне на гэтым тыдні вельмі напружаны графік.

**timework** [ˈtaɪmwɜːk] *n.* пагадзі́нная пра́ца; **be on timework** працава́ць на ўмо́вах пагадзі́ннай апла́ты

**timid** [ˈtɪmɪd] *adj.* баязлі́вы, нясме́лы; палахлі́вы, няўпэ́ўнены; *He's timid about making decisions.* У яго не хапае смеласці прымаць рашэнні. ♦ **as timid as a rabbit** палахлі́вы як за́яц

**timidity** [tɪˈmɪdəti] *n.* баязлі́васць, палахлі́васць; нясме́ласць; сарамлі́васць

**timidly** [ˈtɪmɪdli] *adj.* баязлі́ва, палахлі́ва; нясме́ла; сарамлі́ва

**timorous** [ˈtɪmərəs] *adj. fml or lit.* баязлі́вы; палахлі́вы; нясме́лы; **a timorous policy** надзвы́чай асцяро́жная палі́тыка

**tin** [tɪn] *n.* **1.** во́лава; **sheet tin** ліставо́е во́лава; **coated with tin** лу́джаны **2.** бляша́нка; **a tin of sardines** бляша́нка сардзі́н **3.** *infml* гро́шы, звó̞нкая мане́та ♦ **a little tin god** чалаве́к, які́ карыста́ецца незаслу́жаным паклане́ннем; ≅ «гліня́ны і́дал»

**tinfoil** [ˈtɪnfɔɪl] *n.* алавя́ная фо́льга, станіёль

**ting** [tɪŋ] *n.* звон; **the sharp ting of a handbell** прані́злівы звон звано́чка

**tinge** [tɪndʒ] *n.* **1.** лёгкі акра́с, адце́нне, тон **2.** налёт, след; пры́месь; **a tinge of irony** іранí́чная но́тка

**tingle** [ˈtɪŋgl] *v.* **(with)** дрыжа́ць (*ад холаду, страху*); **tingle with excitement** дрыжа́ць ад хваля ва́ння

**tinker**[1] [ˈtɪŋkə] *n.* **1.** лудзі́льшчык, ме́днік **2. (with)** спро́ба адрамантава́ць што-н.; *I had a tinker with your radio.* Я паспрабаваў адрамантаваць ваша радыё. ♦ **I don't care a tinker's damn/curse.** ≅ Мне на гэ́та зусі́м напля ва́ць.

**tinker**[2] [ˈtɪŋkə] *v.* **(at, with)** рамантава́ць; по́ркацца, ко́рпацца; *He likes tinkering with computers*. Ён любіць рамантаваць камп'ютары.

**tinkle**[1] [ˈtɪŋkl] *n.* **1.** звон, дзы́нканне; бра́згане **2.** *infml* тэлефо́нны звано́к; **give a tinkle** *infml* пазвані́ць (*па тэлефоне*)

**tinkle**[2] [ˈtɪŋkl] *v.* звані́ць; звіне́ць; дзы́нькаць, бра́згаць; **tinkle on a guitar** бры́нкаць на гіта́ры

**tinned** [tɪnd] *adj.* кансервава́ны (*у бляшанцы*); **tinned food/goods** кансе́рвы

**tinnitus** [ˈtɪnɪtəs] *n. med.* звон у вуша́х

**tin-opener** [ˈtɪnˌəʊpnə] *n.* кансе́рвавы нож

**Tin Pan Alley** [ˌtɪnpænˈæli] *n. infml, dated* а́ўтары і выдаўцы́ лёгкай му́зыкі; ме́сца, дзе яны́ пра цу́юць

**tinpot** [ˈtɪnpɒt] *adj. BrE* нява́жны, нязна́чны; дро́бны; **tinpot politicians** нязна́чныя палітыка́ны

**tinsel** [ˈtɪnsl] *n.* **1.** мішура́, блі́скаўка; **decorate a Christmas tree with tinsel** упрыго́жваць ялі́нку мішуро́ю **2.** зне́шняя, падма́нная бліску́часць; **the tinsel of politeness** паказна́я ве́тлівасць

**tint**[1] [tɪnt] *n.* фа́рба; адце́нне, тон; **autumnal tints** во́сеньскія фа́рбы

**tint**[2] [tɪnt] *v.* падмалёўваць, падфарбо́ўваць; надава́ць адце́нне

**tinted** [ˈtɪntɪd] *adj.* падфарбава́ны (*пра валасы*); з адце́ннем (*чаго-н.*); **tinted glasses** цёмныя акуля́ры

**tiny** [ˈtaɪni] *adj.* мале́нькі, мале́нечкі, малю́сенькі, малю́ткі; **a tiny tot** карапу́з; **feel a tiny bit better** адчува́ць сябе́ кры́шку ле́пей

**tip**[1] [tɪp] *n.* ко́нчык; накане́чнік; **the tip of the iceberg** ба́чная ча́стка а́йсберга ♦ **from tip to toe** з галавы́ да ног; **have smth. on the tip of one's tongue** быць, круці́цца на ко́нчыку языка́ (*пра словы*); **have smth. at the tips of one's fingers** ≅ ве́даць што-н. як сваё пяць па́льцаў

**tip**[2] [tɪp] *v.* **1.** нахіля́ць; нахіля́цца; схіля́ць; схіля́цца; **tip one's chair backward** адкі́двацца наза́д ра́зам з крэ́слам **2.** наліва́ць; апаражня́ць; **tip rubbish** зва́льваць сме́цце **3.** лёгка датыка́цца, дакрана́цца ♦ **tip the scales (at)** ва́жыць; *He tips the scales at 70 kg.* Ён важыць 70 кг.

**tip down** [ˌtɪpˈdaʊn] *phr.v. BrE, infml* **:** *It was tipping down.* Ішоў моцны дождж.

**tip out** [ˌtɪpˈaʊt] *phr.v.* выва́льваць (*што-н.*)

**tip over** [ˌtɪpˈəʊvə] *phr.v.* перакýльваць; перакýльвацца; вывaро́чваць

**tip up** [ˌtɪpˈʌp] *phr.v.* нахіля́ць; нахіля́цца

**tip**[3] [tɪp] *n.* **1.** чаявы́я; **give a tip** даць «на чай» **2.** намёк, пара́да; **take my tip** паслу́хай мяне́

**tip**[4] [tɪp] *v.* дава́ць на «чай» ♦ **tip smb. the wink** падміргну́ць, зрабі́ць каму́-н. знак упо́тай

**tip-off** [ˈtɪpɒf] *n. infml* намёк, папярэ́джанне, перасцяро́га; **give a tip-off** намяка́ць

**tipper-lorry** [ˈtɪpəˌlɒri] *n. infml* грузаві́к-самазва́л

**tipple**[1] [ˈtɪpl] *n. infml* напо́й, напі́так (*спіртны*)

**tipple**[2] [ˈtɪpl] *v. infml* п'я́нстваваць, ча́ста выпіва́ць

**tippler** [ˈtɪplə] *n. infml* п'я́ніца

**tipsy** [ˈtɪpsi] *adj. infml* падпі́ты, пад му́хай, пад ча́ркай

**tiptoe**[1] [ˈtɪptəʊ] *n.* **:** ♦ **on tiptoe(s)** на ды́бачках, на па́льчыках

**tiptoe**[2] [ˈtɪptəʊ] *v.* устава́ць; падыма́цца на па́льчыкі; хадзі́ць на ды́бачках

**tip-top** [ˌtɪpˈtɒp] *adj. infml* першакла́сны, надзвыча́йны, выда́тны; *I feel tip-top.* Я ў выдатнай форме.

**tip-up table** [ˈtɪpʌpˌteɪbl] *n.* складны́ стол

**tirade** [taɪˈreɪd] *n.* тыра́да, **break into a tirade** пача́ць сы́паць (*праклёны, зласлівыя словы і да т.п.*)

**tire**[1] [ˈtaɪə] *AmE* **= tyre**

**tire**[2] [ˈtaɪə] *v.* стамля́ць; стамля́цца; змо́рваць; **tire of smth.** стамля́цца ад чаго́-н.

**tired** [ˈtaɪəd] *adj.* **1.** сто́млены, змо́раны; **dead tired** змо́раны да сме́рці; **get tired** стамля́цца; *I'm tired of him.* Ён мне надакучыў. **2.** *derog.* сы́ты, здаво́лены (*усім да адвалу*); **a tired joke** збі́ты анекдо́т

**tiredness** [ˈtaɪədnəs] сто́ма, змо́ранасць

**tireless** [ˈtaɪələs] *adj.* нясто́мны; энергі́чны; **tireless efforts** нясто́мныя намага́нні

**tiresome** [ˈtaɪəsəm] *adj.* надаку́члівы, ну́дны; сто́мны, уто́мны; **tiresome illness** знура́льная хваро́ба; **a tiresome lecture** ну́дная ле́кцыя

**tissue** [ˈtɪʃuː,ˈtɪsjuː] *n.* **1.** *biol.* клятча́тка, тка́нка **2.** *textile* ткані́на (*празрыстая*) **3.** то́нкая абго́ртачная папе́ра; папяро́вая сурвэ́тка; **a face/facial tissue** сурвэ́тка для зня́цця макія́жу; **toilet tissue** туале́тная папе́ра ♦ **a tissue of lies** *lit.* павуці́нне хлусні́

**tit** [tɪt] *n. zool.* сіні́ца

**Titan** [ˈtaɪtn] *n.* **1.** *myth.* Тыта́н **2.** *fml* тыта́н, гіга́нт

**titanic** [taɪˈtænɪk] *adj. fml* тытані́чны; **a titanic ship** карабе́ль-гіга́нт

**titanium** [taɪˈteɪniəm] *n. chem.* тыта́н

**titbit** [ˈtɪtbɪt] *n. BrE* **1.** сма́чны кава́лачак **2.** піка́нтная навіна́

**tit for tat** [ˌtɪtfəˈtæt] *n.* «во́ка за во́ка», «зуб за зуб»; **give smb. tit for tat** адплаці́ць, адпо́мсціць каму́-н.

**tithe** [taɪð] *n. dated* дзесяці́на (*падатак*)

**titillate** [ˈtɪtɪleɪt] *v.* узбуджа́ць, хвалява́ць (*прыемна*)

**titivate** [ˈtɪtɪveɪt] *v.* прыбіра́цца, прыхаро́швацца; **titivate one's hair** папраўля́ць валасы́

**title** [ˈtaɪtl] *n.* **1.** загало́вак, на́зва; **a title page** ты́тульная старо́нка; **a title role** гало́ўная ро́ля (*у тэатры*) **2.** *law* **(to)** пра́ва (на) **3.** ты́тул; зва́нне

**title-holder** [ˈtaɪtlˌhəʊldə] *n. sport* чэмпіён, ула́дальнік чэмпіёнскага ты́тула

**titmice** [ˈtɪtmaɪs] *pl.* → **titmouse**

**titmouse** [ˈtɪtmaʊs] *n. zool.* (*pl.* **titmice**) сіні́ца

**titter** [ˈtɪtə] *v.* хіхі́каць, пасме́йвацца (*нервова*)

**tittle-tattle** [ˈtɪtlˌtætl] *n. infml* пустасло́ўе, балбатня́; плёткі

**titular** [ˈtɪtjələ] *adj. fml* тытулава́ны; **titular sovereignity** наміна́льны суверэнітэ́т; **a titular professor** прафе́сар без ка́федры

**to**[1] [tuː, tʊ, tə] *prep.* **1.** (*выражае напрамак*) у, на, да; **to London** у Ло́ндан; **go to work** е́хаць на пра́цу; **go to the doctor** ісці́ да до́ктара; **2.** (*выражае адлегласць*) да; *Is it far to town?* Ці далёка да горада? **3.** (*пра час*) без; **ten minutes to five** без дзесяці́ (хвілі́н) пяць **4.** (*перадаецца дав. склонам*); *I am grateful to my friend.* Я удзячны майму сябру. **5.** (*перадае прыналежнасць*); **a key to the door** ключы́ ад дзвярэ́й; **words to a tune** сло́вы на маты́ў **6.** (*перадае параўнанне*); **compared to me** у параўна́нні са мно́ю **7.** (*выражае ступень або мяжу чаго-н.*) на; **torn to pieces** разарва́ны на кава́лкі; **from bad to worse** усё горш і горш **8.** (*выражае адказ на што-н. або ацэнку чаго-н.*) на, да; **an answer to my letter** адка́з на мой ліст; **deaf to entreaty** глухі да про́сьбы **9.** (*выражае вынік або рэакцыю*); **move smb. to tears** даве́сці каго́-н. да слёз; **to my surprise** мне на здзіўле́нне; **to no avail** дарэ́мна **10.** (*выражае прапорцыі або суадносіны*) на; *This car does 30 miles to the gallon.* Гэтая машына робіць 30 міль на галон. **11.** (*паказвае на адпаведнасць чаму-н.*); **to my knowledge** нако́лькі я ве́даю

**to**[2] [tuː, tʊ, tə] *particle* (*ужываецца перад інфінітывам, не перакладаецца*) **to come** прые́хаць; *He came to help me.* Ён прыехаў, каб дапамагчы мне; *He was the first to do it.* Ён першы гэта зрабіў; *He was seen to enter the*

*house*. Бачылі, як ён увайшоў у дом; *What am I to do?* Што мне рабіць?; *I intended to go, but I forgot to*. Я збіраўся сысці, але забыўся пра гэта.

**toad** [təʊd] *n.* **1.** *zool.* рапу́ха **2.** *infml* агі́дны чалаве́к

**toad-in-the-hole** [ˌtəʊdɪnðəˈhəʊl] *n. BrE* сасі́ска, запе́чаная ў це́сце

**toadstool [**ˈtəʊdstuːl**]** *n.* пага́нка (*грыб*)

**toady** [ˈtəʊdi] *n. infml* падхалі́м, лісли́вец, падлі́за

**to and fro** [ˌtuːəndˈfrəʊ] *adv.* сюды́ і туды́, узад і ўперад; **a journey to and fro** падаро́жжа туды́ і наза́д

**toast¹** [təʊst] *n.* грэ́нка ♦ **have smb. on toast** мець ула́ду над кім-н.

**toast²** [təʊst] *v.* падрумя́ньваць (*хлеб*); **toast one's feet** грэць но́гі

**toast³** [təʊst] *n.* **1.** тост; **propose a toast to smb./smth.** падня́ць тост за каго́-н./што-н. **2.** то́е/той, за што/каго́ прапану́ецца тост; *You'll be my toast.* П'ю за ваша здароўе.

**toaster** [ˈtəʊstə] *n.* то́стар

**toastmaster** [ˈtəʊstˌmɑːstə] *n.* тамада́

**tobacco** [təˈbækəʊ] *n.* тыту́нь; таба́ка

**tobacconist** [təˈbækənɪst] *n.* прадаве́ц тытунё-вых вы́рабаў; **the tobacconist's** тытунёвы кіёск

**to-be** [təˈbiː] *adj.* бу́дучы; **a writer to-be** бу́дучы пісьме́ннік

**toboggan¹** [təˈbɒgən] *n. sport* са́ні, са́нкі; табо́ган

**toboggan²** [təˈbɒgən] *v.* вазі́цца, ката́цца на са́нках (*асабліва з гары*)

**tobogganing** [təˈbɒgənɪŋ] *n.* са́начны спорт; **go tobogganing** займа́цца са́начным спо́ртам

**tocsin** [ˈtɒksɪn] *n. dated* наба́т; наба́тны звон; сігна́л трыво́гі

**tod** [tɒd] *n.* **:** ♦ **on one's tod** *BrE, infml, dated* адзі́н, без ніко́га, сам па сабе́

**today¹** [təˈdeɪ] *n.* сённяшні, сяго́нняшні дзень; **today's paper** сённяшняя газе́та; **writers of today** суча́сныя пісьме́ннікі

**today²** [təˈdeɪ] *adv.* сёння, сяго́ння, цяпе́р; **a week today** праз ты́дзень; **a year ago today** ро́ўна год наза́д; *What day is it today?* Які сёння дзень?

**toddle** [ˈtɒdl] *v.* **1.** чыкільга́ць **2.** *infml* прагу́ль-вацца; сыхо́дзіць (*з дому*)

**toddler** [ˈtɒdlə] *n.* дзіця́, якое то́лькі пачына́е хадзі́ць

**to-do** [təˈduː] *n. infml* мітусня́, бегані́на; сумят-ня́; **make a great to-do about smth.** усча́ць сва́рку з-за чаго́-н.

**toe¹** [təʊ] *n.* **1.** па́лец (*нагі*) **2.** насо́к (*панчохі, чаравіка*) ♦ **on one's toes** напагато́ве; **tread/step on smb.'s toes** закрану́ць чыё-н. пачу́цці

**toe²** [təʊ] *v.* **:** ♦ **toe the line** стаць на ста́ртавую лі́нію; стро́га прытры́млівацца пра́вілаў, пад-парадко́ўвацца патрабава́нням

**TOEFL** [ˈtəʊfəl] (*скар. ад* **Test of English as a Foreign Language**) тэст па англійскай мо́ве як заме́жнай

**toff** [tɒf] *n. BrE, infml* франт

**toffee** [ˈtɒfi] *n.* ірыс́ка, то́фі (*цукерка*) ♦ **not for toffee** *BrE, infml* зусі́м не; ні за які́я гро́шы

**toffee-nosed** [ˈtɒfiˌnəʊzd] *adj. BrE, infml, dated* пага́рдлівы, ганары́сты, фанабэ́рысты

**toga** [ˈtəʊgə] *n.* **1.** *hist.* то́га **2.** ма́нтыя (*суддзяў*)

**together** [təˈgeðə] *adv.* **1.** ра́зам, супо́льна; **gather/get together** збіра́ць; збіра́цца **2.** аднача-со́ва, аднача́сна **3.** бесперапы́нна, безупы́нна, няспы́нна, за́пар ♦ **together with** у дада́так (*да чаго-н.*)

**tog out** [ˌtɒgˈaʊt] *phr.v.* **:** ♦ **be togged out (in smth.)** *infml* апрана́цца з фо́рсам, з шы́кам

**tog up** [ˌtɒgˈʌp] *phr.v.* = **tog out**

**toil¹** [tɔɪl] *n. fml* ця́жкая і напру́жаная пра́ца

**toil²** [tɔɪl] *v. fml or lit.* **(at/over) 1.** ця́жка пра-цава́ць (над); парабкава́ць **2.** валачы́ся, ледзь ісці́, цягну́цца

**toilet** [ˈtɔɪlɪt] *n.* **1.** прыбіра́льня, туале́т; **toilet articles** прадме́ты туале́ту **2.** *dated* туале́т, адзява́нне, прычэ́сванне і да т.п.

**toilet paper** [ˈtɔɪlɪtˌpeɪpə] *n.* туале́тная папе́ра

**toilet-train** [ˈtɔɪlɪtˌtreɪn] *v.* прывуча́ць дзіця́ да гаршка́

**toiletries** [ˈtɔɪlɪtriz] *n. pl.* прадме́ты туале́ту

**token** [ˈtəʊkn] *n.* **1.** знак, сі́мвал; **token payment** сімвалі́чная пла́та; **in token of** у знак, на ўспамі́н, на па́мяць **2.** тало́н, жэто́н; **a gift token** жэто́н на атрыма́нне падару́нка ♦ **by the same token** па тых жа прычы́нах

**Tok Pisin** [ˌtɒkˈpɪzən] *n.* = **Pidgin**

**told** [təʊld] *past, p.p.* → **tell**

**tolerable** [ˈtɒlərəbl] *adj.* цярпі́мы; ніштава́ты; *The food here is quite tolerable.* Тут нядрэнна кормяць.

**tolerably** [ˈtɒlərəbli] *adv.* ніштава́та, нядрэ́нна; **feel tolerably certain about smth.** быць ама́ль упэ́ўненым у чым-н.

**tolerance** [ˈtɒlərəns] *n.* цярпі́масць, памяркоў-насць, талера́нтнасць; **show tolerance** быць памярко́ўным

**tolerant** [ˈtɒlərənt] *n. adj.* **(of/to/towards)** цярпі́-мы, памярко́ўны, талера́нтны (да); **be tolerant towards smth.** цярпе́ць што-н.

**tolerate** [ˈtɒləreɪt] *v.* **1.** дазваля́ць, дапуска́ць **2.** трыва́ць, цярпе́ць, вытры́мліваць

**toleration** [ˌtɒləˈreɪʃn] *n.* **1.** дазво́л **2. = tolerance**

**toll**[1] [təʊl] *n.* **1.** пла́та за прае́зд (*па дарозе, мосце*) **2.** шко́да; стра́та; **death toll** чалаве́чыя стра́ты ♦ **take a heavy toll/take its toll (on smth.)** прыно́сіць стра́ты

**toll**[2] [təʊl] *v.* **(for)** зва́ніць (*у званы*); *For whom do the bells toll?* Па кім звоняць званы?

**tollbooth** [ˈtəʊlbu:θ] *n.* заста́ва для збо́ру мы́ты

**toll-free** [ˌtəʊlˈfri:] *adj. AmE* бясплатны (*праезд*)

**tollroad** [ˈtəʊlrəʊd] *n.* пла́тная даро́га

**tom** [tɒm] *n. infml* = **tomcat**

**tomato** [təˈmɑ:təʊ] *n.* (*pl.* **-es**) памідо́р; **tomato juice** тама́тны сок

**tomb** [tu:m] *n.* магі́ла (*звычайна з надмагільным помнікам*); **Tomb of the Unknown Soldier** магі́ла Невядо́мага салда́та; **Tomb of God** Магі́ла Го́спада; **go down into the tomb** паме́рці, сысці́ ў магі́лу

**tomboy** [ˈtɒmbɔɪ] *n.* дзяўчы́нка-свавольніца, гарэ́за

**tombstone** [ˈtu:mstəʊn] *n.* надмагі́льны ка́мень, по́мнік

**tomcat** [ˈtɒmkæt] *n.* кот

**tome** [təʊm] *n. fml* том, фалія́нт

**tomfool** [ˌtɒmˈfu:l] *n. dated* дурнава́ты, неразу́мны

**tommy gun** [ˈtɒmigʌn] *n.* кулямёт

**tommy rot** [ˈtɒmirɒt] *n. infml* лухта́, вялі́кае глу́пства

**tomorrow**[1] [təˈmɒrəʊ] *n.* **1.** за́ўтрашні дзень **2.** недалёкая бу́дучыня; **tomorrow's youth** за́ўтрашняя мо́ладзь

**tomorrow**[2] [təˈmɒrəʊ] *adv.* за́ўтра; **the day after tomorrow** паслязаўтра; *See you tomorrow!* Да заўтрага!; Да заўтра!

**ton** [tʌn] *n.* **1.** то́на **2.** *pl.* **tons** *infml* шмат, бе́зліч

**tonal** [ˈtəʊnl] *adj.* **1.** тана́льны **2.** *ling.* то́навы; **tonal languages** то́навыя мо́вы

**tone**[1] [təʊn] *n.* **1.** тон; **the falling/rising tone** сыхо́дны/узыхо́дны тон; **tone control** рэгуля́тар тэ́мбру; **set the tone (for)** задава́ць тон **2.** афарбо́ўка, адце́нне (*колеру*)

**tone**[2] [təʊn] *v.* **1.** надава́ць тон (*гуку, фарбе*); мяня́ць (*тон, колер*) **2.** гармані́раваць **3.** гарманізава́ць

**tone down** [ˌtəʊnˈdaʊn] *phr.v.* змякча́ць, памякча́ць (*колер, гук, заўвагі*)

**tone in** [ˌtəʊnˈɪn] *phr.v.* **(with)** гарманірава́ць (*з чым-н.*)

**tone up** [ˌtəʊnˈʌp] *phr.v.* умацо́ўваць, танізава́ць, павыша́ць то́нус

**tongs** [tʌŋz] *n. pl.* абцугі́, клёшчы

**tongue** [tʌŋ] *n.* **1.** язы́к **2.** мо́ва; гаво́рка; маўленне; **the mother tongue** ро́дная мо́ва, ма́тчына мо́ва **3.** язы́к; язычо́к (*абутку, полымя, агню*) ♦ **hold one's tongue** *dated* трыма́ць язы́к за зуба́мі, маўча́ць; **with (one's) tongue in (one's) cheek** няшчы́ра; насме́шліва, ірані́чна; **loose smb.'s tongue** развяза́ць каму́-н. язы́к

**tongue-in-cheek** [ˌtʌŋɪnˈtʃi:k] *adj.* хі́тры; насме́шліва-іранічны; **tongue-in-cheek remarks** насме́шлівыя заўва́гі

**tongue-lashing** [ˈtʌŋˌlæʃɪŋ] *n. infml* «прабо́рка», разно́с, вымо́ва

**tongue-tied** [ˌtʌŋˈtaɪd] *adj.* **: be tongue-tied** маўча́ць (*ад збянтэжанасці*)

**tongue-twister** [ˈtʌŋˌtwɪstə] *n.* скорагаво́рка; ця́жкае для вымаўле́ння сло́ва; *I can't repeat this tongue-twister.* Язык зломіш, вымаўляючы гэты сказ.

**tonic** [ˈtɒnɪk] *n.* то́нік; танізу́ючы напо́й або сро́дак

**tonight**[1] [təˈnaɪt] *n.* сённяшні ве́чар; **tonight's radio news** вячэ́рнія наві́ны

**tonight**[2] [təˈnaɪt] *adv.* сёння ве́чарам, уве́чары

**tonnage** [ˈtʌnɪdʒ] *n.* тана́ж; груз

**tonne** [tʌn] *n.* метры́чная то́на (= *1000 кг*)

**tonsil** [ˈtɒnsl] *n. anat.* міндалепадо́бная зало́за

**tonsillitis** [ˌtɒnsəˈlaɪtɪs] *n. med.* ангі́на, танзілі́т

**too** [tu:] *adv.* **1.** такса́ма, гэтакса́ма **2.** зана́дта, залі́шне, празме́рна ♦ **be too much for smb.:** *It's too much for me.* Гэта для мяне залішне.

**took** [tʊk] *past* → **take**

**tool** [tu:l] *n.* **1.** інструме́нт, прыла́да; **a machine tool** стано́к, варшта́т **2.** сро́дак (*у чыіх-н. руках*); **the chief tools of a critic** гало́ўныя сро́дкі кры́тыка ♦ **down tools** спыня́ць пра́цу, бастава́ць

**toot** [tu:t] *v.* трубі́ць (*у рог*); дава́ць гудо́к

**tooth** [tu:θ] *n.* (*pl.* **teeth**) **1.** зуб; *I had a tooth out.* Мне вырвалі зуб. **2.** зубе́ц (*пілы*) **3. : a sweet tooth** ласу́н; ласу́ха ♦ **cut a tooth:** *She's cutting teeth.* У яе прарэзваюцца зубы; **fight tooth and nail** змага́цца не на жыццё, а на смерць; **get one's teeth into smth.** *infml* го́рача бра́цца за што-н.; **in the teeth of smth.** наперако́р чаму́-н.; **set smb.'s teeth on edge** кі́даць каго́-н. у дры́жыкі

**toothache** [ˈtu:θeɪk] *n.* зубны́ боль; *I've got* (*a*) *toothache.* У мяне баляць зубы.

**toothbrush** [ˈtu:θbrʌʃ] *n.* зубна́я шчо́тка

**toothpaste** [ˈtu:θpeɪst] *n.* зубна́я па́ста

**toothpick** [ˈtu:θpɪk] *n.* зубачы́стка

**toothsome** [ˈtu:θsəm] *adj. fml* прые́мны на смак; **toothsome dessert** ве́льмі сма́чны дэсе́рт

**tootle** [ˈtu:tl] *v.* трубі́ць; дудзе́ць, **tootle on the flute** (і)гра́ць на фле́йце

**top**[1] [tɒp] *n.* **1.** вяршы́ня; верхаві́на; вершалі́на **2.** верх, ве́рхняя ча́стка; **at the top** уве́рсе ♦ **at**

**the top of the tree** на пе́ршым ме́сцы; **at the top of one's voice** на ўвесь го́лас; **from top to bottom** з ве́рху да ні́зу; **from top to toe** з галавы́ да ног; **on top of smth.** зве́рху над чым-н.; у дада́так да чаго́-н.; **be/feel on top of the world** быць/адчува́ць ся́бе на сёмым не́бе

**top**[2] [tɒp] *adj.* ве́рхні; вышэ́йшы, ле́пшы; **top marks** вышэ́йшыя адзна́кі; **a top student** выда́тнік ♦ **at top speed** з найбо́льшай ху́ткасцю

**top**[3] [tɒp] *v.* **1.** пакрыва́ць (*зверху*); быць верхаві́най; **a mountain topped with snow** гара́ са сне́жнай вяршы́няй **2.** быць на чале́, быць пе́ршым або́ ле́пшым **3.** падраза́ць, падрэ́зваць (*дрэвы, кусты*)

**top up** [ˌtɒpˈʌp] *phr.v.* даліва́ць, падліва́ць, напаўня́ць (*шклянку, кубак і да т.п.*)

**topaz** [ˈtəʊpæz] *n. min.* тапа́з

**top-flight** [ˌtɒpˈflaɪt] *adj.* найле́пшы, першакла́сны; высо́кага палёту; **a top-flight scientist** першакла́сны вучо́ны

**top hat** [ˌtɒpˈhæt] *n.* цылі́ндр (*капялюш*)

**topic** [ˈtɒpɪk] *n.* тэ́ма; прадме́т (*дыскусіі*); **relevant topics** актуа́льныя тэ́мы; **the topic of the day** злабадзённая тэ́ма; **topic and comment** *ling.* тэ́ма і рэ́ма

**topical** [ˈtɒpɪkl] *adj.* актуа́льны; злабадзённы; **a topical song** пе́сня на тэ́му дня

**topicality** [ˌtɒpɪˈkæləti] *n.* актуа́льнасць

**topless** [ˈtɒpləs] *adj.* з адкры́тым ве́рхам (*пра адзенне*); «то́плес»; **a topless dress** адкры́тая суке́нка

**top-level** [ˌtɒpˈlevl] *adj.* **: a top-level meeting** сустрэ́ча на вышэ́йшым узро́ўні

**topmost** [ˈtɒpməʊst] *adj. fml* са́мы ве́рхні; са́мы ва́жны; найважне́йшы; **topmost news** навіна́ надзвыча́йнай ва́жнасці

**top-notch** [ˌtɒpˈnɒtʃ] *adj. infml* першакла́сны; цудо́ўны, надзвыча́йны; непараўна́льны

**topographer** [təˈpɒgrəfə] *n.* тапо́граф

**topography** [təˈpɒgrəfi] *n.* тапагра́фія

**toponymy** [təˈpɒnɪmi] *n. ling.* тапані́мія

**topos** [ˈtɒpɒs] *n.* (*pl.* **topoi**) **1.** традыцы́йная тэ́ма (*у рыторыцы*) **2.** агу́льнае ме́сца

**topping** [ˈtɒpɪŋ] *n.* гарні́р; падлі́ўка

**topple** [ˈtɒpl] *v.* **1. (over)** перакýльваць; перакýльвацца **2.** пазбаўля́ць ула́ды, звярга́ць, скіда́ць

**top-ranking** [ˌtɒpˈræŋkɪŋ] *adj.* высокапаста́ўлены; **a top-ranking musician** музыка́нт сусве́тнага значэ́ння

**top secret** [ˌtɒpˈsiːkrɪt] *adj.* надзвыча́йна сакрэ́тны; ца́лкам тае́мны

**topsy-turvy** [ˌtɒpsiˈtɜːvi] *adv. infml* шы́вератнавы́варат; уве́рх дном, дагары́ нагамі

**top ten** [ˌtɒpˈten] *n.* **the top ten** пе́ршая дзяся́тка (*лаўрэатаў конкурсаў папулярных песен і да т.п.*)

**top-up** [ˈtɒpʌp] *n.* далі́ва́нне; *Let me give you a top-up?* Вам даліць?

**torch** [tɔːtʃ] *n.* **1.** кішэ́нны ліхта́рык **2.** пахо́дня, фа́кел ♦ **carry a torch for smb.** быць закаха́ным у каго́-н.

**torchlight** [ˈtɔːtʃlaɪt] *n.* святло́ пахо́дні; **a torchlight procession** шэ́сце з пахо́днямі

**tore** [tɔː] *past* → **tear**[3]

**toreador** [ˈtɒriədɔː] *n.* тарэадо́р

**torment**[1] [ˈtɔːmənt] *n.* паку́та, мучэ́нне; **be in torment** паку́таваць

**torment**[2] [tɔːˈment] *v.* прыно́сіць боль, паку́ты

**tormentor** [tɔːˈmentə] *n. lit.* кат

**torn** [tɔːn] *p.p.* → **tear**[2]

**tornado** [tɔːˈneɪdəʊ] *n.* (*pl.* **-oes**) шквал, смерч, тарна́да

**torpedo**[1] [tɔːˈpiːdəʊ] *n.* (*pl.* **-oes**) тарпе́да; **launch a torpedo** запуска́ць тарпе́ду

**torpedo**[2] [tɔːˈpiːdəʊ] *v.* **1.** падрыва́ць тарпе́дай, тарпедава́ць **2.** разбіва́ць; паралізава́ць; зні шча́ць; **torpedo a plan** правалі́ць план; **torpedo a peace conference** сарва́ць мі́рную канферэ́нцыю

**torpid** [ˈtɔːpɪd] *adj. fml* бяздзе́йны, вя́лы, апаты́чны; *His memory was torpid.* Яго падвяла памяць.

**torpor** [ˈtɔːpə] *n. fml* **1.** апа́тыя, абыя́кавасць **2.** зняме́ласць; зняме́нне; здранцве́нне, летаргі́я; спя́чка; **a deathlike torpor** летаргі́чнае здранцве́нне; **be in a torpor** быць у ста́не здранцве́ння

**torrent** [ˈtɒrənt] *n.* **1.** пато́к; **torrents of words** пато́к слоў; **a mountain torrent** імклі́вы го́рны пато́к **2.** *pl.* **torrents** лі́вень, зале́ва ♦ **fall in torrents** ліць як з цэ́бра /як з вядра́

**torrential** [təˈrentʃl] *adj.* праліўны́ (*дождж*); **torrential abuse** пато́к мо́цнай ла́янкі

**torrid** [ˈtɒrɪd] *adj.* **1.** гара́чы, па́лкі, стра́сны; **torrid love** гара́чае каха́нне **2.** гара́чы, спяко́тны; **the torrid zone** трапі́чная зо́на; **torrid earth** спа́леная со́нцам зямля́

**torso** [ˈtɔːsəʊ] *n.* (*pl.* **-os**) торс, ту́лава

**tort** [tɔːt] *n. law* грама́дскае правапарушэ́нне, грама́дска-прававы́ дэлі́кт; **a judgement for tort** прысу́д па грама́дскім правапарушэ́нні

**tortoise** [ˈtɔːtəs] *n.* чарапа́ха; **a giant tortoise** гіга́нцкая чарапа́ха ♦ **set the hare to catch the tortoise** ≅ ско́чыць вышэ́й галавы́

**tortuous** [ˈtɔːtʃuəs] *adj. fml* **1.** зві́лісты; заві́лісты, пакруча́сты; **a tortuous maze** заблы́таны лабіры́нт; **tortuous style** мудрагелі́сты сты́ль **2.** *derog.* невыра́зны, няпэ́ўны, няшчы-

ры (*пра логіку, доказ і да т.п.*); **a tortuous argument** крывадушны аргумент; **a tortuous politician** хлуслівы палітыкан

**torture**[1] [ˈtɔːtʃə] *n.* **1.** катаванне **2.** мука, пакута; **a torture chamber** камера катаванняў; **put/ subject smb. to torture** катаваць; *She died under torture.* Яна памерла ад пакутаў.

**torture**[2] [ˈtɔːtʃə] *v.* катаваць; мучыць

**torturer** [ˈtɔːtʃərə] *n.* кат

**Tory** [ˈtɔːri] *n.* кансерватар, торы; **the Tories** Кансерватыўная партыя (*у Вялікабрытаніі*); **Tory policies** палітыка Кансерватыўнай партыі

**toss**[1] [tɒs] *n.* **1.** кіданне; кідок; падкіданне, падкідванне; **the toss of a coin** лёсаванне, жараб'ёўка **2.** ускіданне, ускідванне (*галавы*); **give a proud toss of the head** ганарыста ўзняць галаву ♦ **win/lose the toss** выйграць/ прайграць заклад; **not give a toss about smth.** *BrE slang* напляваць на што-н.; *I don't give a toss about it.* Мне гэта да лямпачкі.

**toss**[2] [tɒs] *v.* **1.** кідаць, падкідаць, падкідваць; **toss a pancake** перавярнуць аладку, падкінуўшы яе; **toss a challenge to smb.** кідаць каму-н. выклік **2.** ускідаць, ускідваць (*галаву*) **3.** шавяліцца; кідацца (*у сне*) ♦ **toss and lose** кінуць жэрабя і прайграць

**toss about** [ˌtɒsəˈbaʊt] *phr.v.* кідацца, варочацца (*з боку на бок*)

**toss aside** [ˌtɒsəˈsaɪd] *phr.v.* адкідаць, адкідваць

**toss away** [ˌtɒsəˈweɪ] *phr.v.* = **toss aside**

**toss off** [ˌtɒsˈɒf] *phr.v.* **1.** выпіваць залпам **2.** рабіць што-н. спехам

**toss up** [ˌtɒsˈʌp] *phr.v.* **1.** падкідаць, падкідваць **2.** кідаць жэрабя

**toss-up** [ˈtɒsʌp] *n.* жэраб'ёўка, лёсаванне; **have a toss-up** кідаць жэрабя

**tot**[1] [tɒt] *n. infml* **1.** немаўля; малыш; малы, малая, малое **2.** чарачка (*спіртнога напою*)

**tot**[2] [tɒt] *v.* складаць, складваць; падсумоўваць; **tot (up) to a hundred dollars** *infml* раўняцца ста доларам

**total**[1] [ˈtəʊtl] *n.* цэлае, сума; вынік, падрахунак; **in total** у выніку, разам, цалкам

**total**[2] [ˈtəʊtl] *adj.* **1.** увесь, агульны; **total silence** поўная цішыня, магільнае маўчанне; **total output** валавы прадукт; **total population** агульная колькасць насельніцтва **2.** поўны; сукупны; **in total darkness** у апраметнай цемры; **a total failure** поўны правал

**total**[3] [ˈtəʊtl] *v.* **1.** падводзіць вынікі, падлічваць, падсумоўваць, падбіваць рахунак **2.** раўняцца, даходзіць (да), налічваць (*пра суму, лік і да т.п.*); *His debts total more than $200.* Яго доўг перавысіў 200 долараў.

**totalitarian** [təʊˌtæləˈteəriən] *adj.* таталітарны; татальны; дыктатарска-бюракратычны; **a totalitarian state** таталітарная дзяржава

**totality** [təʊˈtæləti] *n. fml* уся колькасць, сума; паўната

**totally** [ˈtəʊtəli] *adv.* цалкам

**tote bag** [ˈtəʊtbæg] *n. AmE* вялікая сумка, торба

**totem** [ˈtəʊtəm] *n.* татэм

**totter** [ˈtɒtə] *v.* хістацца;ківацца; клыпаць; **tottering steps** няпэўныя крокі

**tottery** [ˈtɒtəri] *adj.* **: feel tottery** няўпэўнена трымацца на нагах, стаяць нетрывала

**touch**[1] [tʌtʃ] *n.* **1.** дотык; **a sense of touch** пачуццё дотыку; **smooth to the touch** гладкі навобмацак **2.** дакрананне; **a touch of flu** лёгкая форма грыпу; **have a light/heavy touch** мець лёгкую/цяжкую руку **3.** сувязь, кантакт **4.** *infml* трохі, трошкі; крыху, крышку ♦ **be out of touch** губляць сувязь; **get in touch (with)** звязацца (*з кім-н.*); **keep in touch** падтрымліваць сувязь

**touch**[2] [tʌtʃ] *v.* **1.** чапаць, кранаць; дакранацца, датыкацца; **touch at a port** заходзіць у порт; **touch shore** падплываць да берага **2.** закранаць (*пытанне, праблему і да т.п.*) **3.** узрушаць, узрушваць, расчульваць, хваляваць; **touch slightly** лёгка дакранацца; *He was touched to tears.* Ён быў крануты да слёз. ♦ **touch bottom** *BrE* дайсці да самага нізкага ўзроўню (*пра цэны, падзеі*); **touch wood** дакранацца да чаго-н. каб прадухіліць бяду

**touch down** [ˌtʌtʃˈdaʊn] *phr.v.* прызямляцца (*пра самалёт*)

**touch up** [ˌtʌtʃˈʌp] *phr.v.* выпраўляць, паляпшаць

**touch-and-go** [ˌtʌtʃənˈgəʊ] *adj. infml* рызыкоўны; *The patient was touch-and-go.* Хворы быў на валаску ад смерці.

**touchdown** [ˈtʌtʃdaʊn] *n.* пасадка самалёта; **make a touchdown** рабіць пасадку

**touched** [tʌtʃt] *adj.* **1.** усхваляваны, узрушаны **2.** *infml, dated* «крануты»

**touching** [ˈtʌtʃɪŋ] *adj.* кранальны, хвалюючы, узрушальны; *Her story was very touching.* Яе аповед усхваляваў нас.

**touchy** [ˈtʌtʃi] *adj.* **1. (about)** крыўдлівы, чуйны; *Don't be so touchy!* Ды не крыўдуй ты так! **2.** вельмі далікатны (*пра рэч, сітуацыю*); *Racism remains a touchy issue.* Расізм застаецца далікатнай праблемай.

**tough** [tʌf] *adj.* **1.** цвёрды, жорсткі, тугі, пруткі (*пра рэчы*); **as tough as leather** цвёрды як

падэ́шва (*пра мяса*) **2.** мо́цны, ду́жы, выно́слівы **3.** ця́жкі **4.** жо́рсткі, гру́бы, суро́вы (*пра праблему, пытанне, падарожжа*); **take a tough line (with smb.)** рабі́ць жо́рсткія за́хады (*адносна каго-н.*) **5.** *infml* **(on)** няўда́лы, нешчаслі́вы; *It was tough on him.* Яму давялося цяжка; *That's tough!* Якая няўдача!; Як не пашанцавала!; **be/get tough (with smb.)** прыма́ць цвёрдае рашэ́нне, рабі́ць жо́рсткія за́хады (*адносна каго-н.*); **a tough customer** *infml* нелаго́дны, незгаво́рлівы чалаве́к ♦ **a tough nut to crack, a tough row to hoe** ця́жкая зада́ча; арэ́шак не па зуба́х; **tough luck!** вось як не пашанцава́ла!

**toughen** [ˈtʌfn] *v.* рабі́ць цвёрдым; рабі́цца цвёрдым, жо́рсткім; **toughen one's muscles** напру́жваць цяглі́цы/му́скулы

**tough-minded** [ˌtʌfˈmaɪndɪd] *adj.* практы́чны, разва́жлівы, цвяро́зы

**toughness** [ˈtʌfnəs] *n.* цвёрдасць, трыва́ласць; **a show of toughness** праяўле́нне цвёрдасці

**tour**[1] [tʊə] *n.* **1.** пае́здка, падаро́жжа; экску́рсія; **a conducted/guided tour** экску́рсія з гі́дам; **a package tour** арганізава́ная турысты́чная пае́здка; групавы́ туры́зм; **a round-the-world tour** кругасве́тнае падаро́жжа; **a sightseeing tour** агля́д го́рада; **be on tour** падаро́жнічаць, вандрава́ць; **go on/do/make a tour** е́хаць на экску́рсію **2.** турнэ́, гастро́лі (*тэатральныя*)

**tour**[2] [tʊə] *v.* **1.** е́хаць на экску́рсію, у турнэ́; падаро́жнічаць, вандрава́ць **2.** гастралі́раваць

**tour de force** [ˌtʊədəˈfɔːs] *n.* *франц.* праяўле́нне спры́ту, вынахо́длівасці

**tourism** [ˈtʊərɪzəm] *n.* туры́зм

**tourist**[1] [ˈtʊərɪst] *n.* туры́ст

**tourist**[2] [ˈtʊərɪst] *adj.* турысты́чны; **a tourist agency** бюро́ падаро́жжаў; **a tourist camp** турысты́чны ла́гер; **a tourist guide** турысты́чны даве́днік; **a tourist cottage** до́мік для туры́стаў (*у гарах*)

**tourist class** [ˈtʊərɪstˌklɑːs] *n.* турысты́чны, другі́ клас (*на самалёце, параходзе*); **go by tourist class** падаро́жнічаць другі́м кла́сам

**tourist trailer** [ˈtʊərɪstˌtreɪlə] *n.* трэ́йлер, дом-прычэ́п

**tournament** [ˈtʊənəmənt] *n.* турні́р; **a fencing tournament** спабо́рніцтва па фехтава́нні

**tour operator** [ˈtʊəˌɒpəreɪtə] *n.* турысты́чная кампа́нія; арганіза́тар ту́ра

**tousle** [ˈtaʊzl] *v.* кудла́ціць, лахма́ціць (*валасы*)

**tout**[1] [taʊt] *n.* **1.** чалаве́к, які́ прапану́е свой тава́р; коміваяжо́р; **a business tout** камісіяне́р, ма́клер **2.** зазыва́ла

**tout**[2] [taʊt] *v.* **(for)** навя́зваць тава́р, зазыва́ць пакупнікo҆ў

**tow**[1] [təʊ] *n.* кудзе́ля, зрэ́б'е; па́кулле

**tow**[2] [təʊ] *n.* буксіро́ўка; **give smb. a tow** адбуксі́раваць чыю́-н. машы́ну ♦ **have smb. in tow** *infml* мець каго́-н. на ўтрыма́нні; **in tow** на буксі́ры

**tow**[3] [təʊ] *v.* валачы́, цягну́ць (*на вяроўцы*); буксі́раваць; *The ship was towed out of the port.* Судна выйшла з порта на буксіры.

**toward(s)** [təˈwɔːd(z)] *prep.* **1.** да (*у кірунку*); **towards the sea** да мо́ра **2.** да (*у адносінах*); **feel friendly towards smb.** адчува́ць прыхі́льнасць да каго́-н. **3.** пад, каля́ (*пра час*); **towards evening** пад ве́чар

**towel** [ˈtaʊəl] *n.* ручні́к ♦ **throw in the towel** *infml* здава́цца, прызнава́ць над сабо́й перамо́гу

**toweling** [ˈtaʊəlɪŋ] *AmE* = **towelling**

**towelling** [ˈtaʊəlɪŋ] *n.* ткані́на для ручніко́ў; выціра́нне ручніко́м

**towel rail** [ˈtaʊəlˌreɪl] *n.* ве́шалка пад ручні́к

**tower**[1] [ˈtaʊə] *n.* ве́жа; вы́шка; **the Tower of London** Ло́нданскі Та́ўэр; **an ivory tower** (*перан.*) ве́жа са слано́вай ко́сці ♦ **a tower of strength** надзе́йная апо́ра, абаро́нца

**tower**[2] [ˈtaʊə] *v.* **(above/over)** узвыша́цца; узніма́цца; узно́сіцца (*над*); *The skyscrapers tower over the city.* Хмарачосы ўзвышаюцца над горадам.

**tower block** [ˈtaʊəˌblɒk] *n.* *BrE* вышы́нны буды́нак

**towering** [ˈtaʊərɪŋ] *adj.* **1.** ве́льмі высо́кі; высачэ́зны; **a towering height** велізарная вышыня́ **2.** жахлі́вы, празме́рны; **towering ambitions** празме́рныя амбі́цыі **3.** выбі́тны, вялі́кі; **a towering achievement** найбуйне́йшае дасягне́нне

**town** [taʊn] *n.* **1.** невялі́кі го́рад, гарадо́к; мястэ́чка; **in town** у го́радзе; **out of town** за го́радам, на сяле́; у ад'е́здзе **2.** цэнтр дзелаво́га, гандлёвага жыцця́; *I'm going down town to do some shopping.* Я еду ў цэнтр, каб пахадзіць па крамах. ♦ **be (out) on the town** *infml* гуля́ць, весялі́цца

**town council** [ˌtaʊnˈkaʊnsl] *n.* гарадска́я ра́да, муніцыпалітэ́т

**town cross** [ˌtaʊnˈkrɒs] *n.* знак у вы́глядзе кры́жа, які́ адзнача́е ме́сца ры́нку ў го́радзе

**town-dweller** [ˈtaʊnˌdwelə] *n.* гараджа́нін; гараджа́нка

**town hall** [ˌtaʊnˈhɔːl] *n.* ра́туша

**townhouse** [ˈtaʊnhaʊs] *n.* гарадска́я кватэ́ра; гарадскі́ дом

**town planning** [ˌtaʊnˈplænɪŋ] *n.* планіро́ўка гарадо́ў; горадабудаўні́цтва
**townsfolk** [ˈtaʊnsfəʊk] *n.* гараджа́не; **the townsfolk** усё насе́льніцтва го́рада
**township** [ˈtaʊnʃɪp] *n.* **1.** раён (*частка акругі ў ЗША*) **2.** *hist.* царко́ўны прыхо́д або́ маёнтак; мале́нькі гарадо́к або́ вёска (*якія ўваходзілі ў склад вялікай парафіі*)
**toxic** [ˈtɒksɪk] *adj.* такс́ічны; атру́тны, ядаві́ты
**toxin** [ˈtɒksɪn] *n.* такс́ін, атру́та
**toy**[1] [tɔɪ] *n.* ца́цка; за́баўка; **a toy dog** мале́нькі ха́тні саба́чка; **make a toy of smth.** забаўля́цца чым-н.
**toy**[2] [tɔɪ] *v.* **1. (with)** гуля́ць, забаўля́цца; *Don't toy with matches.* Не забаўляйся з запалкамі. **2.** несур'ёзна ста́віцца (*да чаго-н./каго-н.*); вадзіць за нос; **toy with an idea** нас́іцца з ду́мкай
**toyshop** [ˈtɔɪʃɒp] *n.* мага́зін ца́цак
**trace**[1] [treɪs] *n.* **1.** след; **without trace** бяссле́дна; **lose trace of smb.** згуб́іць су́вязь з кім-н. **2.** невял́ікая ко́лькасць; *Give me a trace more salt.* Дай мне яшчэ крыху солі.
**trace**[2] [treɪs] *n.* пастро́нак ♦ **die in the traces** паме́рці на пасту́; **kick over the traces** устава́ць на дыбќі (*пра чалавека*); злоўжыва́ць сваёй во́ляю
**trace**[3] [treɪs] *v.* **1.** сачы́ць, высо́чваць **2.** вызнача́ць пахо́джанне; *He traces his descent back to an old Norman family.* Яго радавод вядзецца ад нарманскіх часоў. **3.** калькава́ць; здыма́ць ко́пію
**tracery** [ˈtreɪsəri] *n.* узо́р, малю́нак; *There was some tracery made by frost on the windowpane.* Мароз пакінуў сваю вышыванку на аконным шкле.
**trachea** [trəˈkiːə] *n.* *anat.* (*pl.* **tracheas** *or* **tracheae**) трахе́я, ды́хальнае го́рла
**trachoma** [trəˈkəʊmə] *n.* *med.* трахо́ма
**tracing paper** [ˈtreɪsɪŋˌpeɪpə] *n.* ка́лька
**track**[1] [træk] *n.* **1.** след; **get on smb.'s track** напа́сці на чый-н. след; **lose track of** згуб́іць след **2.** сце́жка, глуха́я даро́га **3.** каля́я, рэ́йкавы пуць **4.** *sport* бегава́я даро́жка, трэк; **track and field events** лёгкая атле́тыка **5.** даро́жка (*фанаграмы*) ♦ **be on the right/wrong track** быць на пра́вільным/няпра́вільным шляху́; адыхо́дзіць ад тэ́мы; **be off the beaten track** зб́іцца з даро́гі; быць на няпра́вільным шляху́; **in one's tracks** *infml* адра́зу, за́раз жа, на ме́сцы; **keep/lose track (of)** быць/не быць у ку́рсе спраў
**track**[2] [træk] *v.* сачы́ць, высо́чваць; напада́ць на след
**track down** [ˌtrækˈdaʊn] *phr.v.* дакапа́цца (*да прычыны*); вы́сачыць і злав́іць
**tracker** [ˈtrækə] *n.* паляўн́ічы, які высо́чвае дз́ікіх звяро́ў
**track record** [ˈtrækˌrekɔːd] *n.* дасягне́нні; стаж (*работы*); поспехі, паслужны́ спіс
**tracksuit** [ˈtræks(j)uːt] *n.* цёплы трэніро́вачны касцю́м
**tract**[1] [trækt] *n.* **1.** разло́г, абша́р; паласа́ прасто́ры; **a tract of land** паласа́ зямл́і **2.** *anat.* тракт; **the respiratory tract** ды́хальныя шлях́і
**tract**[2] [trækt] *n.* тракта́т (*асабліва на палітычную або рэлігійную тэму*)
**tractable** [ˈtræktəbl] *adj.* пада́тлівы, паслухмя́ны; **a tractable disposition** пада́тлівы хара́ктар
**traction** [ˈtrækʃn] *n.* **1.** ця́га; **electric traction** электры́чная ця́га **2.** *med.* упра́ўка вы́віхаў, перало́маў **3.** трэ́нне, шарава́нне
**tractor** [ˈtræktə] *n.* тра́ктар; цяга́ч
**tractor driver** [ˈtræktəˌdraɪvə] *n.* трактары́ст
**tractor trailer** [ˈtræktəˌtreɪlə] *n.* *AmE* грузав́ік з прычэ́пам
**trad** [træd] *n.* *infml* традыцы́йны джаз (*у стылі паўднёвых штатаў ЗША 1920-х гадоў*)
**trade**[1] [treɪd] *n.* **1.** га́ндаль; каме́рцыя; **home trade** уну́траны га́ндаль; **foreign trade** заме́жны га́ндаль; **be in the cotton trade** гандлява́ць баво́ўнай **2.** рамяство́, прафе́сія; **by trade** па прафе́сіі; **the building trade** будаўн́ічая прамысло́васць ♦ **a jack of all trades** ма́йстар на ўсе ру́кі
**trade**[2] [treɪd] *v.* **1.** гандлява́ць **2.** *AmE* **(at)** купля́ць (*што-н.*) **3. (for)** абме́ньваць (*на што-н.*); купля́ць па ба́ртары ♦ **trade on smb.** скарысто́ўваць каго́-н. у сва́іх мэ́тах
**trade in** [ˌtreɪdˈɪn] *phr.v.* выме́ньваць стару́ю рэч на но́вую (*з даплатай*)
**trade off** [ˌtreɪdˈɒf] *phr.v.* *infml* збыва́ць; **trade off old goods** збыць стары́я тава́ры
**trade gap** [ˈtreɪdˌgæp] *n.* дэфіцы́т гандлёвага бала́нсу
**trademark** [ˈtreɪdˌmɑːk] *n.* ф́ірмавая ма́рка
**tradename** [ˈtreɪdˌneɪm] *n.* **1.** гандлёвая на́зва тава́ру **2.** на́зва ф́ірмы
**trade price** [ˈtreɪdˌpraɪs] *n.* фабры́чны кошт, апто́вы кошт
**trader** [ˈtreɪdə] *n.* гандля́р; купе́ц
**trade-in** [ˈtreɪdɪn] *n.* прадме́т, які́ выме́ньваецца на но́вы (*аўтамабіль, тэлевізар і да т. п.*)
**trade secret** [ˌtreɪdˈsiːkrət] *n.* сакрэ́т ф́ірмы, прафес́ійная та́йна
**tradesman** [ˈtreɪdzmən] *n.* (*pl.* **-men**) гандля́р; купе́ц; кра́мнік

**trade(s) union** [ˌtreɪd(z)ˈjuːnjən] *n.* трэд-юніён, прафсаю́з; **the Trades Union Congress** Кангрэ́с трэд-юніёнаў (*у Брытаніі*)

**trade wind** [ˈtreɪdˌwɪnd] *n.* паса́т (*вецер*)

**trading** [ˈtreɪdɪŋ] *n.* га́ндаль, каме́рцыя; **slave trading** га́ндаль раба́мі

**tradition** [trəˈdɪʃn] *n.* трады́цыя, стары́ звы́чай; **by tradition** па трады́цыі; **break with traditions** паруша́ць трады́цыі; **keep up traditions** захо́ўваць трады́цыі

**traditional** [trəˈdɪʃnl] *adj.* традыцы́йны; векавы́; **a traditional occupation** звыча́йны заня́так

**traditionally** [trəˈdɪʃnəli] *adv.* традыцы́йна, згóдна з трады́цыямі

**traduce** [trəˈdjuːs] *v. fml* паклёпнічаць, узво́дзіць паклёп; знеслаўля́ць, абнеслаўля́ць; *He was traduced by historians.* Яго зняславілі гісторыкі.

**traducer** [trəˈdjuːsə] *n.* паклёпнік, абгаво́ршчык

**traffic¹** [ˈtræfɪk] *n.* **1.** рух; тра́нспарт; **heavy/light traffic** вялі́кі/невялі́кі рух; **a line of traffic** чарада́ машы́н; **traffic regulations** пра́вілы даро́жнага ру́ху; *They were stuck in traffic.* Яны заселі ў дарожнай пробцы. **2.** га́ндаль (*незаконны*); **traffic in drugs** га́ндаль нарко́тыкамі

**traffic²** [ˈtræfɪk] *v.* **(in)** гандлява́ць; прадава́ць; **traffic in illicit merchandise** гандлява́ць кантраба́ндным тава́рам

**trafficator** [ˈtræfɪkeɪtə] *n.* указа́льнік паваро́ту

**traffic circle** [ˈtræfɪkˌsɜːkl] *n. AmE* кальцава́я тра́нспартная развя́зка

**traffic island** [ˈtræfɪkˌaɪlənd] *n. BrE* астраво́к бяспе́кі (*на дарозе*)

**traffic jam** [ˈtræfɪkˌdʒæm] *n.* зато́р, «про́бка»; **get into a traffic jam** патра́піць у про́бку

**trafficlight** [ˈtræfɪkˌlaɪt] *n.* святлафо́р; **stop at trafficlights** спыні́цца ля святлафо́ра

**traffic warden** [ˈtræfɪkˌwɔːdn] *n. BrE* інспе́ктар даро́жнага ру́ху (*які кантралюе стаянку машын*)

**tragedy** [ˈtrædʒədi] *n.* **1.** трагі́чная сітуа́цыя, трагі́чная з'я́ва; трагі́чнасць; **make a tragedy out of smth./treat smth. as a tragedy** рабі́ць з чаго́-н. траге́дыю; **end in tragedy** ско́нчыцца трагі́чна **2.** траге́дыя; **Greek tragedy** грэ́чаская траге́дыя

**tragic** [ˈtrædʒɪk] *adj.* **1.** катастрафі́чны, жахлі́вы; **a tragic event** трагі́чны вы́падак; **a tragic scene** су́мнае відо́вішча **2.** трагі́чны, трагеды́йны; **a tragic actress** трагеды́йная актры́са

**tragicomedy** [ˌtrædʒiˈkɒmədi] *n.* **1.** трагікаме́дыя **2.** трагікамі́чная сітуа́цыя, з'я́ва

**trail¹** [treɪl] *n.* **1.** след; даро́га; **be on the trail** ісці́ па сляда́х; **pick up the trail** напада́ць на след **2.** сце́жка, даро́га ♦ **be hot on smb.'s trail** *infml* ісці́ па гара́чых сляда́х

**trail²** [treɪl] *v.* **1.** цягну́ць; цягну́цца **2.** валачы́; валачы́ся; *She trailed five children after her.* Яна цягнула за сабою пяцярых дзяцей. **3.** сла́цца; абвіва́ць, абвіва́цца; пле́сціся (*пра расліны*); *Creepers trailed over roofs and walls.* Паўзучыя расліны абвівалі дахі і сцены. **4.** *infml* зама́ньваць; падма́нваць; рэкламава́ць (*па радыё*) **5.** сачы́ць, высо́чваць; **trail a wild animal** высо́чваць дзі́кую жывёліну

**trail away** [ˌtreɪləˈweɪ] *phr.v.* = **trail off**

**trail off** [ˌtreɪlˈɒf] *phr.v.* заціха́ць, заміра́ць (*асабліва пра размову*); *The discussion trailed off into futilities.* Абмеркаванне было марным.

**trailblazer** [ˈtreɪlˌbleɪzə] *n.* **1.** той, хто праклада́е шлях (*у лесе*) **2.** нава́тар, піяне́р; першапрахо́дца; следапы́т

**trailer** [ˈtreɪlə] *n.* **1.** трэ́йлер, прычэ́п **2.** *AmE* дом-прычэ́п **3.** кінаафі́ша, ано́нс; кінаплака́т

**train¹** [treɪn] *n.* **1.** цягні́к; **change trains** рабі́ць переса́дку з аднаго́ цягніка́ на і́ншы; **get on/off a train** садзі́цца ў цягні́к/сыхо́дзіць з цягніка́; **take/catch/get the 7.15 train** се́сці ў цягні́к, што адыхо́дзіць у 7.15; **go/travel by train** е́хаць на цягніку́ **2.** карава́н, або́з; вясе́льны по́езд **3.** нато́ўп, сві́та (*прыхільнікаў*) **4.** чарада́; ланцу́г **5.** шлейф (*сукенкі*); хвост (*павы*) ♦ **in train** *infml* напагато́ве; **a train of thought** ход ду́мак

**train²** [treɪn] *v.* **1. (at/in)** вучы́ць; вучы́цца **2.** навуча́ць; навуча́цца; **train smb.'s taste** выхо́ўваць чый-н. густ **3. (for)** рыхтава́ць; рыхтава́цца **4.** трэнірава́ць; трэнірава́цца; дрэсірава́ць

**trainee** [ˌtreɪˈniː] *n.* **1.** стажо́р, практыка́нт; **a trainee programmer** праграмі́ст-стажо́р **2.** *mil.* той, хто прахо́дзіць баяву́ю падрыхто́ўку

**trainer** [ˈtreɪnə] *n.* **1.** *pl.* **trainers** *BrE* красо́ўкі **2.** трэ́нер, інстру́ктар

**training** [ˈtreɪnɪŋ] *n.* трэніро́ўка; **be in training** трэнірава́цца; **go into training** пайсці́ працава́ць трэ́нерам

**training college** [ˈtreɪnɪŋˌkɒlɪdʒ] *n.* спецыя́льны кале́дж, тэ́хнікум (*у Вялікабрытаніі*); **a police training college** кале́дж для падрыхто́ўкі паліцэ́йскіх

**trainman** [ˈtreɪnmən] *n. AmE* (*pl.* **-men**) правадні́к; чыгу́начнік

**train staff** [ˈtreɪnstɑːf] *n.* цягніко́вая брыга́да

**traipse** [treɪps] *v. infml* хадзі́ць без спра́вы, валэ́ндацца, бадзя́цца без мэ́ты; **traipse over the countryside** валацу́жнічаць па вёсках

**trait** [treɪt] *n.* характэ́рная ры́са, асаблі́васць, я́касць; **the chief traits of character** гало́ўныя ры́сы хара́ктару

**traitor** [ˈtreɪtə] *n.* **(to)** здрáднік; **a traitor of Christ** хрыстапрадáвец; **a traitor to one's country** здрáднік радзíмы; **turn traitor** стаць здрáднікам

**traitorous** [ˈtreɪtərəs] *adj. fml* здрáдніцкі; прадáжніцкі; вералóмны; **a traitorous act** вералóмны ўчы́нак

**traitress** [ˈtreɪtrəs] *n.* здрáдніца

**trajectory** [trəˈdʒektəri] *n. math.* траектóрыя

**tram** [træm] *n. BrE* трамвáй; **take a tram** сéсці ў трамвáй; **go by tram** éхаць на трамвáі

**tramcar** [ˈtræmkɑː] *n. BrE* = **tram**

**tramline** [ˈtræmlaɪn] *n.* трамвáйная лíнія

**trammel** [ˈtræml] *v. fml* перашкаджáць, стры́мліваць, лімітавáць

**tramp**[1] [træmp] *n.* **1.** бадзя́га, валацýга; **live as a tramp** бадзя́жнічаць **2.** дóўгі пахóд пéшшу; **go for a tramp** ісцí ў пахóд **3.** ця́жкія крóкі, тýпат

**tramp**[2] [træmp] *v.* **1.** ця́жка ступáць, тýпаць **2.** бадзя́цца; валачы́ся; валачы́цца; **tramp the streets** бадзя́цца па вýліцах **3.** трамбавáць, таптáць

**trample** [ˈtræmpl] *v.* **1.** таптáць, затóптваць, растóптваць; **trample the grass** вытóптваць травý **2.** пагарджáць; заглушáць; зневажáць (*пачуцці*); **trample on smb.'s rights** грýба парушáць чыé-н. правы́

**trampoline** [ˈtræmpəliːn] *n.* трамплíн

**tramway** [ˈtræmweɪ] *n.* рэ́льсы для трамвáя

**trance** [trɑːns] *n.* **1.** транс; **go/fall into a trance** упáсці ў транс; **put/send smb. into a trance** прывéсці кагó-н. у транс **2.** стан экстáзу

**tranny** [ˈtræni] *n. infml* транзíстар

**tranquil** [ˈtræŋkwɪl] *adj. fml* цíхі, мíрны, спакóйны; **lead a tranquil life** жыць спакóйным жыццём

**tranquillize,** *BrE* **-ise** [ˈtræŋkwɪlaɪz] *v.* заспакóйваць, транквілізавáць; **a fast-acting tranquillizing drug** заспакая́льны срóдак хýткага дзéяння

**tranquillizer,** *BrE* **-iser** [ˈtræŋkwɪlaɪzə] *n.* заспакая́льны срóдак, транквілізáтар

**trans** (*пісьмовае скар. ад* **translated)** перакладзены

**transact** [trænˈzækt] *v. fml* вéсці (*справы*); заключáць пагаднéнні (*паміж кім-н.*); **transact only with honest people** мець спрáвы тóлькі з прыстóйнымі людзьмí

**transaction** [trænˈzækʃn] *n.* **1.** здзéлка, спрáва; **engaged in various transactions** заня́ты рóзнымі спрáвамі **2.** вядзéнне (*спраў*) **3.** *pl.* **transactions** прáцы, пратакóлы, навукóвыя запíскі; **Transactions of the Philological Society** прáцы філалагíчнага аб'яднáння

**transatlantic** [ˌtrænzətˈlæntɪk] *adj.* трансатланты́чны; **a transatlantic voyage** трансатланты́чнае падарóжжа

**transcend** [trænˈsend] *v. fml* **1.** выхóдзіць за мéжы; **transcend the limits of decency** пераступáць мéжы прыстóйнасці **2. (in)** перасягáць, перавышáць (*у чым-н.*); *It transcends my powers of description.* Звыш маіх магчымасцей апісаць гэта.

**transcendent** [trænˈsendənt] *adj. fml* надзвычáйны; выдáтны, выбíтны, цудóўны; **transcendent beauty** надзвычáйная прыгажóсць; **a transcendent folly** невераróднае глýпства

**transcendental** [ˌtrænsenˈdentl] *adj. philos.* апрыёрны, трансцэндэ́нтны; незвычáйны, звышнатурáльны; **transcendental capacity** звышнатурáльныя здóльнасці

**transcontinental** [ˌtrænzˌkɒntɪˈnentl] *adj.* трансконтынентáльны (*пра чыгунку, пералёт*)

**transcribe** [trænˈskraɪb] *v.* **1.** запíсваць, перапíсваць **2.** транскрыбíраваць **3.** перазапíсваць, рабíць перазáпіс; **transcribe on/onto compact discs** запíсваць на кампáкт-ды́скі

**transcript** [ˈtrænskrɪpt] *n.* **1.** кóпія; **a transcript of a will** кóпія завяшчáння **2.** расшыфрóўка; **the transcript of any lettering** расшыфрóўка нáдпісаў (*на карціне*)

**transcription** [trænˈskrɪpʃn] *n.* **1.** транскрыбíраванне; транскры́пцыя **2.** кóпія **3.** *mus.* пералажэ́нне, аранжырóўка **4.** зáпіс (*на радыё*); перазáпіс

**transfer**[1] [ˈtrænsfɜː] *n.* **1.** передáча; перанóс; **the transfer of meaning** перанóс значэ́ння (*слова*); **the transfer of knowledge** перадáча вéдаў у íншую сфéру **2.** перавóд (*па службе*); той, хто перавóдзіцца (*у іншую ўстанову*) **3. (from … to)** перасáдачны пункт; перасáдка; *May I have a transfer, please?* Дайце мне, калі ласка, транзітны білет. **4.** перавóдны малю́нак

**transfer**[2] [trænsˈfɜː] *v.* **1.** перанóсіць, перамяшчáць, перавóдзіць; **transfer a student from one group to another** перавéсці студэ́нта з аднóй грýпы ў íншую; **transfer some money** перавóдзіць грóшы на íншы рахýнак **2.** перадавáць (*маёмасць*) **3.** перасáджваць; перасáджвацца (*на іншы від транспарту*) **4.** калькавáць (*малюнак*)

**transferable** [trænsˈfɜːrəbl] *adj.* якí мóжа быць перадáдзены; **not transferable** без прáва перадáчы (*пра голас на выбарах, білет*)

**transference** [ˈtrænsfərəns] *n. tech. or fml* перадáча, перанясéнне; перавóд; **the transference of heat** перадáча цяплá; **the transference of rights** перадáча правóў

**tranfiguration** [ˌtrænsˌfɪgər'eɪʃn] *n.* змянéнне,ператварэ́нне; **the Transfiguration** *relig.* Ператварэ́нне, Праабражэ́нне (*Хрыста*); **Transfiguration Church** Праабражэ́нская царквá

**transfigure** [træns'fɪgə] *v. lit.* ператварáць, змяня́ць; *Her face was transfigured by happiness.* Ад шчасця яе твар змяніўся.

**transfix** [træns'fɪks] *v.* **1.** прані́зваць; пракóлваць (*шпагай, кінжалам*) **2.** прыкóўваць да мéсца; *She stood transfixed with terror.* Яна скамянела ад страху.

**transform** [træns'fɔːm] *v.* **(into)** ператварáць; ператварáцца; перайнáчваць; перайнáчвацца; трансфармавáць; трансфармавáцца (*у што-н.*); **transform a sentence** *ling.* перабудóўваць сказ

**transformation** [ˌtrænsfə'meɪʃn] *n.* ператварэ́нне; трансфармáцыя; **undergo a transformation** быць трансфармавáным

**transformer** [træns'fɔːmə] *n.* **1.** пераўтварáльнік, рэфармáтар **2.** *electr.* трансфармáтар

**transfuse** [træns'fjuːz] *v.* **(to/into) 1.** *med.* пералівáць (*кроў*) **2.** перадавáць (*пачуцці*)

**transfusion** [træns'fjuːʒn] *n.* **1.** *med.* пераліва́нне (*крыві*); трансфу́зія; **give a transfusion** пералівáць (*кроў*) **2.** перадавáнне (*чаго-н.*)

**transgress** [trænz'gres] *v. fml* парушáць (*закон, правілы і да т.п.*); пераступáць; **transgress the bounds of decency** перахóдзіць мéжы прыстóйнасці

**transgression** [trænz'greʃn] *n.* праві́ннасць, парушэ́нне (*закона*); **commit a grave transgression** ця́жка правіні́цца

**transience** ['trænziəns] *n. fml* скарацéчнасць, хуткаплы́ннасць, мімалётнасць; **the transience of human life** мімалётнасць чалавéчага жы́цця

**transient**[1] ['trænziənt] *n.***1.** праéзджы пастая́лец (*у гатэлі, пансіёне*) **2.** беспрацóўны бадзя́га

**transient**[2] ['trænziənt] *adj. fml* **1.** які́ мінáе, прахóдзіць; часóвы; мімалётны; **transient success** часóвы пóспех **2.** часóвы, непастая́нны (*пра рабочых*)

**transistor** [træn'zɪstə] *n.* **1.** транзі́стар (*радыё*) **2.** *phys.* крысталі́чны трыёд

**transit** ['trænsɪt] *n.* **1.** праéзд; перавóзка; транзі́т; **overland transit** праéзд па су́шы; **a transit permit** дазвóл на перавóзку тавáраў; **in transit** праéздам, у дарóзе; пры перавóзцы **2.** *astron.* прахóджанне планéты (*праз мерыдыян*); кульмінáцыя

**transit camp** ['trænsɪtˌkæmp] *n.* лáгер для перамéшчаных асóб

**transition** [træn'zɪʃn] *n.* **(to)** перахóд, перамяшчэ́нне; **undergo an abrupt transition** нечaкáна змяні́цца; **a transition period** перахóдны перы́яд; **the transition of ideas** распаўсю́джванне ідэ́й

**transitional** [træn'zɪʃənl] *adj.* перахóдны; **a transitional government** часóвы ўрад

**transitive** ['trænzətɪv] *adj. ling.* перахóдны; **a transitive verb** перахóдны дзеяслóў

**transit visa** ['trænsɪtˌviːzə] *n.* транзі́тная ві́за

**transitory** ['trænsɪtəri] *adj. fml* часóвы, мімалётны; эфемéрны; **transitory pleasures** імгнéнныя ўцéхі; *This transitory life!* Гэтае хуткаплыннае жыццё!

**translatable** [trænz'leɪtəbl] *adj.* перакладáльны; *The sentence is not translatable.* Гэты сказ нельга перакласці.

**translate** [trænz'leɪt] *v.* **1.** перакладáць; перакладáцца; **translate into English** перакладáць на англі́йскую мóву; *This sentence doesn't translate well.* Гэты сказ добра не перакладаецца. **2.** тлумáчыць; *I translated her silence as assent.* Я зразумеў яе маўчанне як згоду. **3.** перайнáчваць, ператварáць; **translate promises** выкóнваць абяцáнні

**translation** [trænz'leɪʃn] *n.* **1.** переклáд; перакладны́ тэкст; **a rough/literal/exact/synchronous translation** гру́бы/літарáльны/даклáдны/ сінхрóнны пераклáд; **make/do a translation** рабі́ць пераклáд; **in translation** у пераклáдзе **2.** працэ́с пераклáду; перакладáнне **3.** ператварэ́нне; **the translation of theory into practice** ператварэ́нне тэóрыі ў прáктыку

**translator** [trænz'leɪtə] *n.* **1.** пераклáдчык (*асабліва той, які робіць пісьмовы пераклад*) **2.** трансля́тар (*радыё*)

**transliteration** [ˌtrænzˌlɪtə'reɪʃn] *n.* **(into)** транслітарáцыя

**transliterate** [trænz'lɪtəreɪt] *v. fml* **(into)** транслітаравáць, перадавáць лі́тарамі і́ншага алфаві́та

**translucent** [træns'luːsnt] *adj.* напаўпразры́сты, паўпразры́сты; *This glass is translucent*. Гэтае шкло прасвечвае.

**transmission** [trænz'mɪʃn] *n. fml* **1.** перадáча; **a radio/television transmission** радыё-/тэлеперадáча; **the transmission of rights** *law* перадáча правóў **2.** перасы́лка; перанóс; **the transmission of money by telegraph** перавóд грóшай па тэлегрáфе; **the transmission of a disease** перадáча хварóбы **3.** *tech.* перадáча, карóбка перадáч

**transmit** [trænzˈmɪt] *v.* **1.** паведамля́ць, транслі́раваць; **transmit news** перадава́ць наві́ны **2.** перадава́ць; **transmit a disease** распаўсю́джваць хваро́бу; **transmit a tradition** перадава́ць трады́цыю **3.** пасыла́ць, адпраўля́ць (*сігнал, пасылку*) **4.** *phys.* право́дзіць цяпло́ **4.** перадава́ць (*сілу, рух*); прапуска́ць (*святло*)

**transmitter** [trænzˈmɪtə] *n.* **1.** перада́тчык; трансляцы́йная ста́нцыя **2.** *fml* переано́счык (*хваробы*)

**transmute** [trænzˈmjuːt] *v. fml* **(into)** ператвара́ць; **transmute water power into electrical power** ператвара́ць сі́лу вады́ ў электраэне́ргію

**transmutation** [ˌtrænzmjuːˈteɪʃn] *n.* **1.** ператвара́нне, пераўтвара́нне; **the transmutation of fortune** зме́нлівасць лёсу **2.** *tech.* трансмута́цыя, ператвара́нне; **artificial transmutation** шту́чнае ператвара́нне (*элементаў*)

**transoceanic** [ˌtrænzəʊʃiˈænɪk] *adj.* **1.** заакія́нскі; **the transoceanic world** заакія́нскія краі́ны **2.** трансакія́нскі; **a transoceanic rocket** міжкантынента́льная балісты́чная раке́та

**transom** [ˈtrænsəm] *n.* **1.** фраму́га **2.** перакла́дзіна, папяро́чка; ра́ма (*у акне*)

**transparency** [trænsˈpærənsi] *n.* **1.** празры́стасць **2.** дыяпазіты́ў

**transparent** [trænsˈpærənt] *adj.* **1.** празры́сты; **transparent glass** празры́стае шкло **2.** я́сны, зразуме́лы; відаво́чны; **a transparent lie** я́ўная хлусня́

**transpiration** [ˌtrænspɪˈreɪʃn] *n. biol.* выдзяле́нне по́ту; транспіра́цыя, выпара́нне

**transpire** [trænˈspaɪə] *v. fml* **1.** станаві́цца вядо́мым, набыва́ць вядо́масць; **it transpired (that)…** вы́явілася, што... **2.** здара́цца; *Let me know what transpires.* Патлумачце мне, што адбываецца. **3.** *biol.* выдзяля́цца (*з арганізму*); выпа́рвацца

**transplant¹** [ˈtrænsplɑːnt] *n.* **1.** *agr.* пікірава́ная раса́да, пераса́дачная расл́іна, са́джанец **2.** *med.* переса́дка (*нырак, скуры і да т.п.*); **a heart transplant** пераса́дка сэ́рца

**transplant²** [trænsˈplɑːnt] *v.* **1.** *med.* рабі́ць пераса́дку (*тканкі, скуры, сэрца і да т.п.*) **2.** пераса́джваць (*расліны*) **3.** *fml* перасяля́ць; перасяля́цца; перано́сіць; перано́сіцца

**transplantation** [ˌtrænsplɑːnˈteɪʃn] *n.* = **transplant¹**

**transpolar** [trænsˈpəʊlə] *adj.* запаля́рны, транспаля́рны

**transport¹** [ˈtrænspɔːt] *n.* **1.** перавоз́ка; транспарціро́ўка; **the transport of goods** перавоз́ка тава́раў **2.** *BrE* тра́нспарт, сро́дак су́вязі; **travel on/by public transport** падаро́жнічаць грама́дскім тра́нспартам **3.** *pl.* **transports** *lit.* мо́цныя эмо́цыі, пары́ў пачу́ццяў; **transports of joy** ра́дасны пары́ў

**transport²** [trænˈspɔːt] *v.* перавоз́іць, перамяшча́ць; перано́сіць (*у думках*)

**transportable** [trænˈspɔːtəbl] *adj.* перано́сны, рухо́мы; *The patient is not transportable.* Хворага нельга перавозіць.

**transportation** [ˌtrænspɔːˈteɪʃn] *n.* тра́нспарт, сро́дак су́вязі

**transported** [trænˈspɔːtɪd] *adj. lit.* **(with)** мо́цна ўсхвалява́ны; **transported with anger** не ў сабе́ ад зло́сці

**transporter** [trænˈspɔːtə] *n. tech.* транспарцёр

**transpose** [trænˈspəʊz] *v. fml* **1.** перамяшча́ць, мяня́ць ме́сцамі **2.** *mus.* транспані́раваць

**transposition** [ˌtrænspəˈzɪʃn] *n.* **1.** перастано́ўка, перамяшчэ́нне; **the transposition of words** перано́с, перастано́ўка слоў **2.** *mus.* транспазі́цыя

**transverse** [ˈtrænzvɜːs] *adj. tech.* папярэ́чны; **a transverse section** папярэ́чны разрэ́з

**trap¹** [træp] *n.* **1.** па́стка, сіло́; **fall into a trap** тра́піць у па́стку; **set/lay a trap** паста́віць па́стку **2.** люк; дзве́ры (*у столі, падлозе*) **3.** *slang* рот; *Shut your trap!* Закрый зяпу! ♦ **avoid the trap of doing smth.** пазбе́гнуць памылко́вага дзе́яння

**trap²** [træp] *v.* **1.** лаві́ць (*у пастку, сіло*); *We were trapped in the lift.* Мы заселі ў ліфце. **2.** падма́нваць; спакуша́ць; **trapped in a criminal situation** уця́гнуты ў злачы́нства

**trapdoor** [ˈtræpdɔː] *n.* люк; дзве́ры (*у столі, падлозе*)

**trapeze** [trəˈpiːz] *n. sport* трапе́цыя; **a trapeze artist** акраба́т на трапе́цыі

**trapezium** [trəˈpiːziəm] *n. math.* (*pl.* **trapeziums** *or* **trapezia**) трапе́цыя (*у геаметрыі*)

**trapper** [ˈtræpə] *n.* паляўні́чы, які́ ста́віць па́сткі; лаве́ц

**trappings** [ˈtræpɪŋz] *n. pl.* зне́шнія атрыбу́ты (*пасады*); упрыго́жанні; **the visible trappings of success** я́ўныя атрыбу́ты по́спеху

**trapshooting** [ˈtræpˌʃuːtɪŋ] *n. sport* стэ́ндавая стральба́

**trash** [træʃ] *n.* **1.** *BrE, infml* ке́пская літарату́рная або́ маста́цкая пра́ца; халту́ра; *That story is mere trash.* Гэтае апавяданне – проста лухта. **2.** *AmE* сме́цце; адкі́ды; **a trash can** скры́нка для сме́цця **3.** *AmE, infml* дрэнь, падо́нкі

**trashy** [ˈtræʃi] *adj. infml* дрэ́нны, ке́пскі, пага́ны, благі́; **trashy TV-shows** нікчэ́мныя тэлешо́у

**trauma** [ˈtrɔːmə] *n. med.* **1.** тра́ўма **2.** *psych.* эмацыяна́льная тра́ўма, шок

**traumatic** [trɔːˈmætɪk] *adj.* **1.** *med.* траўматы́чны **2.** *infml* які́ траўмі́руе; *Our trip home was pretty traumatic.* Наша падарожжа дамоў было проста жудасным.

**travel¹** [ˈtrævl] *n.* **1.** падаро́жжа, вандро́ўка; **travel expenses** падаро́жныя расхо́ды; **set out on one's travels** адпра́віцца ў падаро́жжа **2.** *pl.* **travels** пае́здкі; падаро́жжы; **a book of travels** кні́га падаро́жжаў; *He's still on his travels.* Ён усё яшчэ падарожнічае.

**travel²** [ˈtrævl] *v.* **1.** падаро́жнічаць, е́здзіць, вандрава́ць; **go travelling** падаро́жнічаць, вандрава́ць **2.** перамяшча́цца, распаўсю́джвацца (*пра святло, навіны*) ♦ **travel light** падаро́жнічаць без багажу́; жыць лёгка, бесклапо́тна

**travel agency** [ˈtrævlˌeɪdʒənsi] *n.* бюро́ падаро́жжаў

**travel agent** [ˈtrævlˌeɪdʒnt] *n.* аге́нт бюро́ падаро́жжаў

**travel bureau** [ˈtrævlˌbjʊərəʊ] *n.* = **travel agency**

**traveler** [ˈtrævələ] *AmE* = **traveller**

**traveler's check** [ˈtrævələzˌtʃek] *AmE* = **traveller's cheque**

**traveling** [ˈtræəlɪŋ] *AmE* = **travelling**

**traveller** [ˈtrævələ] *n.* **1.** падаро́жнік; падаро́жніца; вандро́ўнік; вандро́ўніца **2.** камівояжо́р ♦ **a traveller's tales** невераго́дныя ба́йкі

**traveller's cheque** [ˈtrævələzˌtʃek] *n.* турысты́чны чэк

**travelling** [ˈtræəlɪŋ] *adj.* даро́жны, пахо́дны; **a travelling circus** вандро́ўны цырк; **travelling expenses** даро́жныя расхо́ды; **travelling people** *BrE* вандро́ўнікі

**travelog** [ˈtrævəlɒg] *AmE* = **travelogue**

**travelogue** [ˈtrævəlɒg] *n.* фільм або́ кні́га пра падаро́жжы

**travelsickness** [ˈtrævlˌsɪknəs] *n.* вані́ты ад язды́, ад палёту

**traverse¹** [ˈtrævɜːs] *n.* **1.** перакла́дзіна; тра́верс (*у альпінізме*) **2.** перахо́д, пераадо́ленне; **a traverse of the gorge** перахо́д праз цясні́ну

**traverse²** [trəˈvɜːs] *v. fml* перасяка́ць, е́хаць (праз); **traverse the desert** перасяка́ць пусты́ню

**travesty** [ˈtrævəsti] *n.* **(of)** паро́дыя; **a travesty of justice** паро́дыя на справядлі́васць

**trawl¹** [trɔːl] *n.* не́вад; трал

**trawl²** [trɔːl] *v.* **1. (for)** шука́ць, вышу́кваць **2.** тра́ліць; craві́ць ры́бу тра́лавымі се́ткамі; цягну́ць па дне

**trawler** [ˈtrɔːlə] *n.* тра́лер; **a sea-going trawler** марскі́ тра́лер

**tray** [treɪ] *n.* падно́с; **a tray of drinks** падно́с з напо́ямі; **a tray for letters** падно́с для лістоў

**treacherous** [ˈtretʃərəs] *adj.* **1.** здра́дніцкі, прада́жны; верало́мны **2.** ненадзе́йны; небяспе́чны; кава́рны; **treacherous weather** падма́нлівае надво́р'е; **a treacherous memory** ке́пская па́мяць

**treacherously** [ˈtretʃərəsli] *adv.* кава́рна, верало́мна; ненадзейна

**treachery** [ˈtretʃəri] *n.* здра́дніцтва, прада́жнасць; верало́мства; **an act of treachery** здра́дніцкі ўчы́нак

**treacle** [ˈtriːkl] *n. BrE* па́така

**treacly** [ˈtriːkli] *adj. BrE* пры́кры; яле́йны, саладжа́вы; **a treacly smile** яле́йная ўсме́шка; **treacly sentiments** саладжа́васць

**tread¹** [tred] *n.* **1.** хада́, пахо́дка; **walk with a measured tread** ісці́ ме́рным кро́кам **2.** прысту́пка (*лесвіцы*) **3.** прата́ктар (*пакрышкі аўтамабіля*)

**tread²** [tred] *v.* **(trod, trodden** *or* **trod) 1.** ступа́ць, кро́чыць, ісці́; **tread a dangerous path** ісці́ небяспе́чным шля́хам **2.** тапта́ць; душы́ць; наступа́ць (*нагой*) ♦ **tread on air** ≅ не чуць пад сабо́й ног; **tread on smb.'s toes** *infml* наступі́ць на (любі́мы) мазо́ль, угняві́ць каго́-н.; **tread on smb.'s heels** ісці́ сле́дам, ісці́ па пята́х

**tread down** [ˌtredˈdaʊn] *phr.v.* утрамбо́ўваць

**tread out** [ˌtredˈaʊt] *phr.v.* **1.** душы́ць, выду́шваць **2.** зато́птваць; *They trod out the fire.* Яны патушылі агонь нагамі.

**treadmill** [ˈtredmɪl] *n.* аднаста́йная механі́чная пра́ца

**treadle** [ˈtredl] *n.* педа́ль (*веласіпеда, швейнай машыны і да т.п.*)

**treason** [ˈtriːzn] *n.* (*дзяржаўная*) здра́да; **talk treason** прамаўля́ць злачы́нныя сло́вы

**treasure¹** [ˈtreʒə] *n.* **1.** скарб; **a treasure island** во́страў ска́рбаў **2.** кашто́ўнасць, скарб (*пра чалавека*); *My treasure!* Мая знаходка!

**treasure²** [ˈtreʒə] *v.* **1.** высо́ка цані́ць, шанава́ць; **treasure smb.'s friendship** высо́ка цані́ць чыё-н. сябро́ўства **2.** зберага́ць, захо́ўваць (*у сэрцы, памяці*)

**treasure house** [ˈtreʒəhaʊs] *n.* ска́рбніца, скарбо́нка; казначэ́йства; **a treasure house of literature** ска́рбніца літарату́ры

**treasure hunt** [ˈtreʒəˌhʌnt] *n.* **1.** по́шукі ска́рбаў **2.** хо́ванкі (*гульня*)

**treasurer** [ˈtreʒərə] *n.* ска́рбнік, казначэ́й

**Treasure State** [ˈtreʒəˌsteɪt] *n. AmE, infml* «Штат Ска́рбаў» (*назва штата Мантана*)

**treasury** [ˈtreʒəri] *n.* **1. the Treasury** дзяржа́ўнае казначэ́йства; міністэ́рства фіна́нсаў; **Secre-**

**tary to/of the Treasury** міні́стр фіна́нсаў ЗША **2.** казна́; ска́рбніца (*асабліва ў замку*)

**treat**[1] [triːt] *n.* **1.** задавальне́нне; асало́да; прые́мнасць; **have a treat** не адмаўля́цца ад прые́мнага **2.** пачасту́нак; пачо́стка, частава́нне

**treat**[2] [triːt] *v.* **1.** абыхо́дзіцца (*з кім-н.*); ста́віцца (*да каго-н.*); *Don't treat me as a child!* Не стаўся да мяне як да дзіцяці! **2.** разгляда́ць, трактава́ць; *I treat his remark as a joke.* Я разумею, што яго заўвага зроблена жартам. **3. (for)** лячы́ць (*ад*); *She was treated for smallpox.* Яе лячылі ад воспы. **4. (to)** частава́ць (*чым-н.*); *He treated me to a taxi about the town.* Ён павазіў мяне на таксі па горадзе. ♦ **treat smb. like dirt** *infml* ста́віцца да каго́-н. як да свінні́ (*непаважліва*)

**treatise** [ˈtriːtɪs] *n.* **(on)** трakта́т, навуко́вая пра́ца

**treatment** [ˈtriːtmənt] *n.* **1. (for)** лячэ́нне; **treatment for cancer** курс лячэ́ння ад ра́ку; **be under treatment** лячы́цца **2.** адно́сіны, абыхо́джанне; **hard treatment** жо́рсткія адно́сіны **3.** тракто́ўка, разуме́нне **4.** апрацо́ўка; **editorial treatment** рэда́ктарская пра́ца

**treaty** [ˈtriːti] *n.* дамо́ва, дагаво́р, пагадне́нне; **by treaty** паво́дле дамо́вы; **make/sign a peace treaty** падпі́сваць мі́рную дамо́ву

**treble**[1] [ˈtrebl] *n. mus.* ды́скант; сапра́на; **sing treble** спява́ць ды́скантам

**treble**[2] [ˈtrebl] *v.* патро́йваць; патро́йвацца; утро́йваць; утро́йвацца; *Expenses have trebled.* Расходы выраслі ўтрая.

**tree** [triː] *n.* дрэ́ва; **an apple tree** я́блыня; **a wild tree** дзі́чка; **a family tree** радаво́д ♦ **be at the top of the tree** займа́ць до́брую паса́ду; быць на чале́

**tree beetle** [ˈtriːbiːtl] *n. zool.* хрушч, ма́йскі жук

**treeless** [ˈtriːləs] *adj.* бязле́сы; го́лы (*пра мясцовасць*); **a treeless plain** бязле́сая раўні́на

**tree surgery** [ˈtriːˌsɜːdʒəri] *n.* до́гляд за дрэ́вамі

**treetop** [ˈtriːtɒp] *n.* вяршалі́на дрэ́ва

**trefoil** [ˈtrefɔɪl, ˈtriːfɔɪl] *n. bot.* канюшы́на; трылі́снік

**trek** [trek] *v. infml* рабі́ць вялі́кі перахо́д, перасяка́ць (*пустыню, раўніну*); **go trekking** падаро́жнічаць (*па пустыні, праз горы*)

**trellis** [ˈtrelɪs] *n.* падпо́рка для распі́н

**tremble**[1] [ˈtrembl] *n.* дрыго́тка, дрыжа́нне; *He was all of a tremble.* Яго ўзялі дрыжыкі.

**tremble**[2] [ˈtrembl] *v.* **1.** дрыжа́ць, трэ́сціся, калаці́цца; **tremble with fear** калаці́цца ад стра́ху **2.** калыха́цца, гайда́цца (*ад ветру*) ♦ **tremble in the balance** ві́се́ць на ні́тачцы, на валаску́; быць у крыты́чным стано́вішчы

**trembly** [ˈtrembli] *adj. infml* дрыго́ткі, дрыжа́чы; няро́ўны (*пра почырк*); *I felt all trembly.* Я ўвесь дрыжаў.

**tremendous** [trəˈmendəs] *adj.* **1.** велізя́рны, велічэ́зны; **tremendous vistas** неабся́жныя прасто́ры **2.** надзвыча́йны, ашаламля́льны; **tremendous applause** бу́рныя апладысме́нты

**tremendously** [trəˈmendəsli] *adv.* ве́льмі, надзвыча́йна, надзвы́чай; ашаламля́льна; **tremendously pleased** надзвы́чай ра́ды

**tremor** [ˈtremə] *n.* дрыжа́нне; вібра́цыя; **earth tremor** землятру́с **2.** хвалява́нне; дры́жыкі; **tremors of fear** хвалява́нне ад стра́ху

**tremulous** [ˈtremjələs] *adj. lit.* **1.** дрыжа́чы (*голас, рука*) **2.** трапяткі́, нясме́лы, баязлі́вы (*позірк, усмешка і да т.п.*)

**trench** [trentʃ] *n.* **1.** роў, кана́ва, яр; **an irrigation trench** ірыгацы́йная кана́ва **2.** ако́п, траншэ́я **3.** катлаві́на, каньён

**trenchant** [ˈtrentʃənt] *adj. fml* рэ́зкі, ко́лкі, во́стры; з'е́длівы; **trenchant style** рэ́зкая мане́ра; **a trenchant argument** мо́цны аргуме́нт

**trench coat** [ˈtrentʃˌkəʊt] *n.* цёплы паўшыне́ль; трэнч

**trend** [trend] *n.* **(towards)** агу́льны кіру́нак, тэндэ́нцыя; **the trend of opinion** агу́льная ду́мка; **set a/the trend** надава́ць кіру́нак

**trendsetter** [ˈtrendˌsetə] *n.* эталóн но́вай мо́ды; заканада́ўца мо́ды

**trendy** [ˈtrendi] *adj. infml* мадня́цкі; мадэрно́вы; **a trendy girl** сты́льная дзяўчы́на

**trepidation** [ˌtrepɪˈdeɪʃn] *n. fml* **1.** трыво́га, збянтэ́жанасць; разгу́бленасць; хвалява́нне; **watch smth. with trepidation** сачы́ць за чым-н. з хвалява́ннем **2.** трапята́нне, дрыжэ́нне, дрыжа́нне

**trespass**[1] [ˈtrespəs] *n.* злоўжыва́нне; парушэ́нне; **a trespass of frontier** парушэ́нне мяжы; **a trespass on smb.'s time** злоўжыва́нне чыі́м-н. ча́сам

**trespass**[2] [ˈtrespəs] *v.* **(on) 1.** паруша́ць чужо́е пра́ва ўлада́ння; **"No trespassing"** «Прахо́д забаро́нены» (*надпіс*) **2.** злоўжыва́ць; ква́піцца; **trespass the bounds of good taste** перахо́дзіць ме́жы до́брага гу́сту; **trespass on smb.'s hospitality** злоўжыва́ць чыёй-н. гасці́ннасцю

**trespasser** [ˈtrespəsə] *n.* правапаруша́льнік; *"Trespassers will be prosecuted"* «Паруша́льнікі бу́дуць пакара́ныя» (*надпіс*)

**tress** [tres] *n. lit.* **1.** ку́дзер, па́сма; каса́; **in tresses** запле́цены ў ко́сы **2.** *pl.* **tresses** распу́шчаныя валасы́

**trestle** [ˈtresl] *n.* ко́злы; падмо́сткі, падпо́ркі; **a trestle for sawing** ко́злы для пілава́ння дроў

**trews** [truːz] *n. pl.* штаны́ ў кле́тку (*шатландскіх горцаў*)

**trial**[1] [ˈtraɪəl] *n.* **1.** суд, працэ́с; **a trial by jury** слу́ханне спра́вы ў судзе́ прыся́жных; **be on trial/stand trial** быць пад судо́м; **bring smb. to/put smb. on trial** прыця́гваць каго́-н. да суда́ **2.** про́ба; выпрабава́нне; **give smth. a trial** рабі́ць про́бу чаго́-н. **3.** выпрабава́нне, ця́жкасць; *He is a real trial to me.* Ён проста бяда для мяне. ♦ **by trial and error** шля́хам проб і памы́лак

**trial**[2] [ˈtraɪəl] *adj.* **1.** про́бны; **a trial flight** про́бны палёт; **a trial run** выпрабава́льны прабе́г; выпрабава́льны тэ́рмін **2.** судо́вы; **a trial testimony** све́дчанне ў судзе́

**triangle** [ˈtraɪæŋgl] *n.* трохвуго́льнік, трохку́тнік; трыку́тнік; **the eternal triangle** любо́ўны трыку́тнік

**triangular** [traɪˈæŋgjələ] *adj.* трохвуго́льны, трохку́тны; трыку́тны; **a triangular agreement** трохбако́вае пагадне́нне

**tribal** [ˈtraɪbl] *adj.* ро́давы, племянны́; **tribal languages** мо́вы плямёнаў; **a tribal system** ро́давы лад

**tribalism** [ˈtraɪbəlɪzəm] *n.* **1.** племянны́ строй **2.** трайбалі́зм, варо́жасць памі́ж плямёнамі

**tribe** [traɪb] *n.* **1.** пле́мя; род; клан **2.** гурт, хе́ўра; **tribes of holiday makers** *infml* нато́ўпы куро́ртнікаў

**tribesman** [ˈtraɪbzmən] *n.* (*pl.* -**men**) член ро́ду, суро́дзіч, супляме́ннік

**tribulation** [ˌtrɪbjuˈleɪʃn] *n. lit.* го́ра, бяда́; **trials and tribulations** го́ра ды выпрабава́нні

**tribunal** [trɪˈbjuːnl] *n.* трыбуна́л, суд; **the tribunal of public opinion** суд грама́дскай ду́мкі; **appear/be brought before a tribunal** з’яві́цца пе́рад судо́м

**tributary**[1] [ˈtrɪbjətri] *n.* прыто́к (*ракі*); *The Avon is a tributary of the Severn.* Эйван – прыток ракі Северн.

**tributary**[2] [ˈtrɪbjətri] *adj.* **1.** **(to)** бакавы́; **a tributary lane** бакава́я але́я **2.** паднача́лены; той, хто пла́ціць дані́ну; **tributary states** зале́жныя дзяржа́вы

**tribute** [ˈtrɪbjuːt] *n.* **1.** дані́на; **lay a tribute on smb.** налажы́ць дані́ну на каго́-н. **2.** ушанава́нне; го́нар; **pay tribute to smb.** выка́зваць зна́кі паша́ны каму́-н.

**trice** [traɪs] *n.* **:** ♦ **in a trice** мі́гам, вокамгне́нна, імгне́нна, умо́мант; *He was gone in a trice.* Ён знік мігам.

**tricentenary** [ˌtraɪsenˈtiːnəri] *adj.* трохсотгадо́вы

**trick**[1] [trɪk] *n.* **1.** жарт; шту́чка; хі́трык; **childish tricks** дзіця́чае свава́льства; **play a trick on smb.** падману́ць каго́-н.; пажартава́ць з каго́-н.; **by trick** ашука́нствам, падма́нам; **tricks of fortune** зме́нлівасць лёсу **2.** спрыт, спо́саб, сакрэ́т; **all the tricks and turns** усе́ прыёмы і хі́трыкі **3.** фо́кус; **a trick of the light** светлавы́ эфе́кт; **do tricks** пака́зваць фо́кусы ♦ **a bag/box of tricks** *infml* усяля́кія хі́трыкі; **be up to one’s (old) tricks** *infml* узя́цца за сваё; **do the trick** *infml* дабі́цца свайго́; дасягну́ць мэ́ты; **play a dirty trick on smb.** *infml* падкла́сці каму́-н. свінню́; **the tricks of the trade** сакрэ́ты прафе́сіі

**trick**[2] [trɪk] *v.* падма́нваць; жартава́ць; **trick smb. into smth./doing smth.** падма́нам спакуша́ць каго́-н. зрабі́ць што-н.; **trick smb. out of smth.** вымя́ньваць што-н. у каго́-н.

**trick out** [ˌtrɪkˈaʊt] *phr.v. lit.* упрыго́жваць, прыбіра́ць, убіра́ць

**trickery** [ˈtrɪkəri] *n.* ашука́нства, падма́н; **get smth. by trickery** атрыма́ць што-н. падма́нам

**trickle**[1] [ˈtrɪkl] *n.* **1.** струме́ньчык; ручаі́нка; *The stream is reduced to a mere trickle in summer.* Летам ручай ператвараецца ў звычайны ручаёк. **2.** нязна́чная ко́лькасць; **a trickle of information** струме́ньчык інфарма́цыі

**trickle**[2] [ˈtrɪkl] *v.* **1.** ка́паць; цячы́ то́нкім струме́ньчыкам, струме́ніцца; прасо́чвацца; *The news trickled out.* Чуткі прасачыліся. **2.** сцяка́цца; *People began trickling onto the square.* Людзі пачалі сцякацца на плошчу.

**trickster** [ˈtrɪkstə] *n.* махля́р, падма́ншчык, ашука́нец

**tricky** [ˈtrɪki] *adj.* **1.** склада́ны, мудрагéлісты, заблы́таны (*пра сітуацыю*); *It’s a tricky question.* Гэта складанае пытанне. **2.** хі́тры, спры́тны (*пра людзей і іх учынкі*)

**tricolor** [ˈtraɪkʌlə] *AmE* = **tricolour**

**tricolour** [ˈtrɪkələ] *n. BrE* трохко́лерны флаг; **the French Tricolour** флаг Фра́нцыі

**tricycle** [ˈtraɪsɪkl] *n.* трохко́лавы веласіпе́д

**trident** [ˈtraɪdnt] *n.* трызу́бец

**tried** [traɪd] *adj.* вы́прабаваны, спра́ўджаны; **tried and tested/trusted** *BrE* праве́раны

**triennial** [traɪˈeniəl] *adj.* які́ паўтара́ецца ко́жныя тры гады́

**trifle**[1] [ˈtraɪfl] *n.* **1.** дро́бязь, драбяза́, драбні́ца; *It’s a mere trifle.* Гэта проста дробязь. **2.** *fml* крыху́, нязна́чна; *It costs a mere trifle.* Гэта каштуе зусім мала. **3.** *BrE* бісквí́т, прапі́таны віно́м і залі́ты ўзбі́тымі вяршка́мі

**trifle**[2] [ˈtraɪfl] *v.* **(with)** ста́віцца несур’ёзна; *He’s not a man to be trifled with.* З ім лепш не жартаваць.

**trifle away** [ˌtraɪfləˈweɪ] *phr.v.* тра́ціць дарма́; **trifle away one's time** ма́рна растра́чваць час

**trifling** [ˈtraɪflɪŋ] *adj. fml* нязна́чны, малава́ртасны; дро́бязны; нява́жны; **a trifling ailment** лёгкае недамага́нне; *This is no trifling matter.* Гэтая справа – не дробязь.

**trigger¹** [ˈtrɪɡə] *n.* **1.** куро́к; **pull the trigger** спусці́ць куро́к; прыве́сці ў дзе́янне (*перан.*) **2.** штуршо́к, пачатко́вы і́мпульс ♦ **quick on the trigger** імпульсі́ўны, ху́ткі на спра́ву

**trigger²** [ˈtrɪɡə] *v.* **1.** спуска́ць куро́к **2.** ініцыі́раваць, распачына́ць, дава́ць пача́так (*чаму-н.*); **trigger off war** развяза́ць вайну́; **trigger rain** выкліка́ць дождж

**trigger-happy** [ˈtrɪɡəˌhæpi] *adj. infml* той, хто страля́е без разбо́ру; ваяўні́чы; ху́ткі на кулакі́

**trigonometry** [ˌtrɪɡəˈnɒmətri] *n.* трыганаме́трыя

**trike** [traɪk] *n. infml* = **tricycle**

**trilateral** [traɪˈlætərəl] *adj.* трохбако́вы; **a trilateral agreement** трохбако́вае пагадне́нне

**trilby** [ˈtrɪlbi] *n.* мужчы́нскі мя́ккі фе́травы капялю́ш

**trilingual** [traɪˈlɪŋɡwəl] *adj.* трохмо́ўны; **a trilingual country** трохмо́ўная краі́на

**trill¹** [trɪl] *n.* **1.** трэль; **trills of a nightingale** салаўі́ны по́шчак **2.** *ling.* гук-вібра́нт

**trill²** [trɪl] *v.* **1.** выво́дзіць трэ́лі; **trill with laughter** заліва́цца сме́хам **2.** *ling.* вымаўля́ць гук «р» з вібра́цыяй; *The French trill the sound "p".* Французы грасіруюць.

**trillion** [ˈtrɪljən] *num., n.* **1.** трыльён, квінтыльён **2.** *AmE* більён

**trilogy** [ˈtrɪlədʒi] *n.* трыло́гія

**trim¹** [trɪm] *n.* **1.** стры́жка; падрэ́зка; *Her hair needs a trim.* Ёй трэба падраўняць валасы. **2.** пара́дак ♦ **in (good) trim** у фо́рме, у пара́дку

**trim²** [trɪm] *adj.* акура́тны, аха́йны; **a trim figure** ла́дная по́стаць; *He keeps his garden trim.* Ён падтрымлівае парадак у садзе.

**trim³** [trɪm] *v.* **1.** падраза́ць, падрэ́зваць, падстрыга́ць (*валасы, дрэвы*); абраза́ць, абрэ́зваць (*пругі*) **2. (with)** аздабля́ць, упрыго́жваць (*адзенне*)

**trimester** [traɪˈmestə] *n. AmE* трыме́стр

**trimmer** [ˈtrɪmə] *n.* тры́мер; **an electric hedge trimmer** прыстасава́нне для падрэ́зкі кусто́ў, сека́тар

**trimming** [ˈtrɪmɪŋ] *n.* **1.** аздо́ба, упрыго́жанне; **with all the trimmings** з усі́мі прычында́ламі **2.** *pl.* **trimmings** гарні́р

**trinity** [ˈtrɪnəti] *n.* **1.** *fml* тры́а, тро́йка **2. the (Holy) Trinity** *relig.* (Свята́я) Тро́йца; **the Holy Trinity Church** Святатро́іцкая царква́

**Trinity Sunday** [ˌtrɪnətiˈsʌndi] *n. relig.* Сёмуха

**trinket** [ˈtrɪŋkɪt] *n.* ца́цка, бразго́тка, за́баўка

**trio** [ˈtriːəʊ] *n.* (*pl.* **-os**) **1.** тро́йка (*людзей*) **2.** *mus.* тры́а

**trip¹** [trɪp] *n.* **1.** пае́здка, экску́рсія, пахо́д, каро́ткае падаро́жжа; рэйс; **a business trip** камандзіро́ўка; **go on/make/take a trip** адпраўля́цца ў падаро́жжа **2.** спатыкне́нне, спо́тык; **make a trip** спатыкну́цца **3.** *sport* падно́жка

**trip²** [trɪp] *v.* **1.** спатыка́цца; **trip the player** зрабі́ць іграку́ падно́жку **2.** ісці́ ху́тка і лёгка; бе́гчы падско́кам; *She tripped into the room.* Яна ўляцела ў пакой.

**trip up** [ˌtrɪpˈʌp] *phr.v.* **1.** памыля́цца **2.** збіва́ць з панталы́ку, заблы́тваць (*каго-н.*)

**tripartite** [traɪˈpɑːtaɪt] *adj. fml* **1.** трохбако́вы (*пра пагадненне*) **2.** які́ склада́ецца з трох ча́стак; **a tripartite exercise** практыкава́нне з трох ча́стак

**tripe** [traɪp] *n.* **1.** рубе́ц (*у кулінарыі*), кіндзю́к **2.** *infml* лухта́, дрэнь; **publish tripe** друкава́ць халту́ру

**triple** [ˈtrɪpl] *adj.* трайны́; патро́йны; **triple whisky** тры по́рцыі ві́скі; **the triple jump** *sport* трайны́ скачо́к

**triplet** [ˈtrɪplət] *n.* **1.** *pl.* **triplets** трайня́, трайня́ты; **give birth to triplets** нарадзі́ць трайня́т **2.** тро́йка (*тры рэчы, тры асобы*)

**triplicate** [ˈtrɪplɪkət] *n.* адна́ з трох ко́пій; **in triplicate** у трох экзэмпля́рах

**tripod** [ˈtraɪpɒd] *n.* трыно́жнік

**tripper** [ˈtrɪpə] *n. BrE* экскурса́нт, туры́ст

**triptych** [ˈtrɪptɪk] *n.* тры́пціх (*твор мастацтва*)

**trisect** [trɪˈsekt] *v.* дзялі́ць на тры ро́ўныя ча́сткі

**trisyllabic** [ˌtraɪsɪˈlæbɪk] *adj. ling.* трохскладо́вы

**trite** [traɪt] *adj.* бана́льны; **a trite metaphor** збі́тая мета́фара

**triumph¹** [ˈtraɪəmf] *n.* **1. (over)** трыу́мф; урачы́стасць **2.** перамо́га; уда́ча; **the triumph of good over evil** перамо́га дабра́ над злом

**triumph²** [ˈtraɪəmf] *v.* **(over)** трыумфава́ць; браць верх (над), перамага́ць

**triumphal** [traɪˈʌmfl] *adj.* трыумфа́льны, перамо́жны, перамагано́сны; урачы́сты; **a triumphal arch** трыумфа́льная а́рка; **a triumphal wreath** лаўро́вы вяно́к перамо́жцы

**triumphant** [traɪˈʌmfənt] *adj.* перамо́жны, перамагано́сны; ра́дасны, урачы́сты; **the triumphant army** а́рмія перамо́жцаў

**trivet** [ˈtrɪvɪt] *n.* трыно́жка (*падстаўка*); тага́н

**trivia** [ˈtrɪviə] *n.* драбяза́; **domestic trivia** ха́тняя драбяза́

**trivial** [ˈtrɪviəl] *adj.* дро́бязны, нязна́чны; **trivial matters** драбні́цы; **trivial objections** неісто́тныя пярэ́чанні

**unapproachable** [ˌʌnəˈprəʊtʃəbl] *adj.* недасту́пны, непрыве́тлівы; некампане́йскі

**unapt** [ˌʌnˈæpt] *adj.* неадпаве́дны; няўме́лы; нязды́льны; **unapt at games** няспры́тны ў гу́льнях

**unarmed** [ˌʌnˈɑːmd] *adj.* няўзбро́ены, бяззбро́йны

**unashamed** [ˌʌnəˈʃeɪmd] *adj.* бессаро́мны, наха́бны; несумле́нны; **be unashamed of doing smth.** не саро́мецца рабі́ць што-н.

**unasked** [ˌʌnˈɑːskt] *adj.* нязва́ны; незапро́шаны; **an unasked guest** няпро́шаны госць; *She came to the party unasked.* Яна прыйшла на вечарыну без запрашэння.

**unasked-for** [ʌnˈɑːsktˌfɔː] *adj.* добраахво́тны; **unasked-for contributions** добраахво́тныя ўнёскі

**unassailable** [ˌʌnəˈseɪləbl] *adj. fml* непрысту́пны; бясспрэ́чны (*пра довад*); *His reputation is unassailabl*e. Яго рэпутацыя бездакорная.

**unassuming** [ˌʌnəˈsjuːmɪŋ] *adj.* сці́плы, непатрабава́льны; **an unassuming manner** сці́плая мане́ра

**unattached** [ˌʌnəˈtætʃt] *adj.* **1.** нежана́ты; незаму́жняя; незару́чаны; незару́чаная **2.** свабо́дны, непрывя́заны; непрымацава́ны

**unattainable** [ˌʌnəˈteɪnəbl] *adj.* недасяга́льны, недася́жны; **an unattainable ideal** недася́жны ідэа́л

**unattended** [ˌʌnəˈtendɪd] *adj.* пакі́нуты без до́гляду, без назіра́ння; **leave one's luggage unattended** пакі́нуць бага́ж без нагля́ду; *The patient remained unattended to.* На хворага ніхто не звяртаў увагі.

**unauthorized,** *BrE* **-ised** [ʌnˈɔːθəraɪzd] *adj.* несанкцыянава́ны, недазво́лены; **unauthorized access** несанкцыянава́ны до́ступ

**unavailable** [ˌʌnəˈveɪləbl] *adj.* яко́га няма́ або́ не́льга даста́ць; *The book is unavailable in the library at the moment.* Гэтай кнігі цяпер няма ў бібліятэцы.

**unavailing** [ˌʌnəˈveɪlɪŋ] *adj. fml* бескары́сны; ма́рны, дарэ́мны; **unavailing efforts** ма́рныя нама́ганні

**unavoidable** [ˌʌnəˈvɔɪdəbl] *adj.* непазбе́жны; **unavoidable duties** непазбе́жныя абавя́зкі

**unavoidably** [ˌʌnəˈvɔɪdəbli] *adv.* нямі́нуча, няўхі́льна, непазбе́жна

**unaware** [ˌʌnəˈweə] *adj.* **: be unaware (of smth.)** не ве́даць, не ўсведамля́ць (чаго́-н.); **be not unaware (of smth.)** падазрава́ць (што-н.)

**unawares** [ˌʌnəˈweəz] *adv.* **1.** нечака́на, рапто́ўна; знячэ́ўку, зняна́цку **2.** незнаро́к; **catch/take smb. unawares** заспе́ць каго́-н. неспадзе́ўкі/ неспадзява́на

**unbalance** [ʌnˈbæləns] *v.* **1.** паруша́ць раўнава́гу, выво́дзіць з раўнава́гі **2.** разбалансо́ўваць

**unbalanced** [ʌnˈbælənst] *adj* **1.** няўсто́йлівы (*пра псіхіку*); неўраўнава́жаны **2.** незбалансава́ны; **an unbalanced diet** незбалансава́ная дые́та

**unbar** [ʌnˈbɑː] *v.* **1.** здыма́ць запо́ры, за́саўкі; адчыня́ць (*дзверы*) **2.** здыма́ць забаро́ну

**unbearable** [ʌnˈbeərəbl] *adj.* нязно́сны, невыно́сны, нясце́рпны; **unbearable conditions** нязно́сныя ўмо́вы

**unbearably** [ʌnˈbeərəbli] *adv.* нязно́сна, нясце́рпна; *It's unbearably hot.* Стаіць нясцерпная спёка.

**unbeatable** [ʌnˈbiːtəbl] *adj.* неперамо́жны; недася́жны; **unbeatable value** ідэа́льная кашто́ўнасць

**unbeaten** [ʌnˈbiːtn] *adj.* неперлаўзы́дзены (*у спорце*); неперамо́жны; **an unbeaten record** неперася́гнуты рэко́рд

**unbecoming** [ˌʌnbɪˈkʌmɪŋ] *adj. fml* **1.** які́ не пасу́е (*пра вопратку*) **2.** непрысто́йны (*пра паводзіны*)

**unbelief** [ˌʌnbɪˈliːf] *n. fml* няве́р'е; скептыцы́зм

**unbelievable** [ˌʌnbɪˈliːvəbl] *adj.* невераго́дны, дзі́ўны; *The cold was unbelievable.* Было неверагодна холадна.

**unbeliever** [ˌʌnbɪˈliːvə] *n. fml* няве́руючы; ске́птык

**unbend** [ʌnˈbend] *v.* **(unbent) 1.** разгіба́ць; разгіба́цца; разгіна́ць; разгіна́цца **2.** выпро́стваць, выпро́ствацца; выраўно́ўваць, выраўно́ўвацца **3.** расслабля́цца; **unbend the mind** даць адпачы́нак галаве́

**unbending** [ˌʌnˈbendɪŋ] *adj.* няўмо́льны; непахі́сны; **an unbending will** жале́зная во́ля

**unbent** [ˌʌnˈbent] *past, p.p.* → **unbend**

**unbias(s)ed** [ʌnˈbaɪəst] *adj.* непрадузя́ты; **an unbias(s)ed observer** аб'екты́ўны назіра́льнік

**unbidden** [ʌnˈbɪdn] *adj. lit.* няпро́шаны, нязва́ны; **unbidden guests** нязва́ныя го́сці; **unbidden tears** няпро́шаныя слёзы

**unbleached** [ʌnˈbliːtʃt] *adj.* нябе́лены; **unbleached linen** нявы́беленае палатно́

**unblemished** [ʌnˈblemɪʃt] *adj.* незапля́млены, беззага́нны, бездако́рны; **an unblemished reputation** бездако́рная рэпута́цыя

**unborn** [ˌʌnˈbɔːn] *adj.* (яшчэ́) не наро́джаны; бу́дучы; **unborn generations** насту́пныя пакале́нні

**unbounded** [ʌnˈbaʊndɪd] *adj. fml* бязме́жны, бязме́рны; **unbounded joy** бязме́рная ра́дасць

**unbowed** [ˌʌnˈbaʊd] *adj. lit.* несагну́ты, непако́рлівы; **bloody but unbowed** які́ пацярпе́ў паражэ́нне, але́ не схілі́ў галаву́

**unbreakable** [ʌnˈbreɪkəbl] *adj.* **1.** небіткі́ **2.** непахі́сны, нязло́мны; **the unbreakable spirit of the resistance** непахі́сны дух супраці́ву

**unbridled** [ʌnˈbraɪdld] *adj. fml* разбэ́шчаны, распу́шчаны (*пра пачуцці*); **unbridled rage** неўтаймава́ны гнеў

**unbroken** [ʌnˈbrəʊkn] *adj.* **1.** бесперапы́нны, няспы́нны, безупы́нны; **ten hours of unbroken sleep** дзе́сяць гадзі́н без про́сыпу **2.** непабі́ты (*рэкорд*) **3.** неўтаймава́ны; **an unbroken horse** неаб'е́зджаны конь

**unbuckle** [ˌʌnˈbʌkl] *v.* расшпіля́ць (*пас, засцежку і да т.п.*)

**unburden** [ˌʌnˈbɜːdn] *v. fml* скіда́ць цяжа́р; **unburden oneself** адво́дзіць душу́; выка́звацца

**unbusinesslike** [ʌnˈbɪznəslaɪk] *adj.* недзелавы́; непракты́чны; **unbusinesslike methods** непракты́чныя ме́тады

**unbutton** [ˌʌnˈbʌtn] *v.* расшпі́льваць; расшпіля́цца (*пра гузікі*)

**unbuttoned** [ˌʌnˈbʌtnd] *adj.* **1.** расшпі́лены; **come unbuttoned** расшпілі́цца (*пра гузікі*) **2.** непасрэ́дны; развя́зны

**uncalled-for** [ʌnˈkɔːldˌfɔː] *adj.* няпро́шаны; недарэ́чны; *The remark was quite uncalled-for.* Заўвага была зусім недарэчнай.

**uncanny** [ʌnˈkæni] *adj.* ненатура́льны, незвыча́йны; **an uncanny resemblance** дзі́ўнае падабе́нства

**uncared-for** [ʌnˈkeədˌfɔː] *adj.* пакі́нуты, закі́нуты; занядба́ны, запу́шчаны (*пра чалавека, сад і да т.п.*)

**unceasing** [ʌnˈsiːsɪŋ] *adj. fml* бесперапы́нны, няспы́нны, безупы́нны; **unceasing devotion** бяско́нцая адда́насць

**unceremonious** [ˌʌnˌserəˈməʊniəs] *adj.* **1.** фамілья́рны, бесцырымо́нны; **unceremonious treatment** бесцырымо́ннае ста́ўленне **2.** неафіцы́йны, нефарма́льны; **an unceremonious gathering** неафіцы́йная сустрэ́ча

**uncertain** [ʌnˈsɜːtn] *adj.* **1.** **(about/of)** няўпэ́ўнены; **be/feel uncertain** не быць упэ́ўненым, сумнява́цца **2.** пераме́нлівы, ненадзе́йны; **uncertain weather** зме́нлівае надвóр'е **3.** няпэ́ўны; невыра́зны; **uncertain steps of babies** няпэ́ўныя кро́кі немаўля́так ♦ **in no uncertain terms** я́сна і выра́зна

**uncertainly** [ʌnˈsɜːtnli] *adv.* няўпэ́ўнена; невыра́зна; няпэ́ўна; **speak uncertainly** гавары́ць без (анія́кай) упэ́ўненасці

**uncertainty** [ʌnˈsɜːtnti] *n.* няўпэ́ўненасць, нерашу́часць; невыра́знасць; невядо́масць; **life's uncertainties** няпэ́ўнае стано́вішча, непрадказа́льнасць жыцця́; **be in a state of uncertainty** сумнява́цца

**unchallenged** [ʌnˈtʃælɪndʒd] *adj.* які́ не выкліка́е сумне́нняў; **let smth. pass/go unchallenged** прапусці́ць што-н. без пярэ́чанняў

**unchanged** [ʌnˈtʃeɪndʒd] *adj.* нязме́нны; *The position is unchanged.* Становішча не змянілася.

**uncharacteristic** [ˌʌnærəktəˈrɪstɪk] *adj.* **(of)** нехарактэ́рны, нетыпо́вы

**uncharitable** [ʌnˈtʃærɪtəbl] *adj.* жо́рсткі, неміласэ́рны; прыдзі́рлівы; **uncharitable remarks** крыўдныя заўва́гі

**uncharted** [ʌnˈtʃɑːtɪd] *adj.* **1.** непазна́чаны на ка́рце; *The hill is uncharted.* Гэтай гары няма на карце. **2.** недасле́даваны; **the uncharted depths of human emotions** нявы́вучаныя глыбі́ні чалаве́чых эмо́цый

**unchecked** [ˌʌnˈtʃekt] *adj. derog.* незатры́маны, нястры́маны; **unchecked passion** неўтаймава́ная жарсць; **unchecked power** некантралю́емая ўла́да; **an unchecked child** непаслухмя́нае дзіця́, не́слух

**unchristian** [ʌnˈkrɪstʃən] *adj.* **1.** нехрысція́нскі; **unchristian behaviour** нехрысція́нскія паво́дзіны **2.** *AmE* ва́рварскі, дзі́кі

**uncivil** [ˌʌnˈsɪvl] *adj. fml* гру́бы; няве́тлівы; **uncivil manners** гру́быя мане́ры

**uncivilized,** *BrE* **-ised** [ʌnˈsɪvəlaɪzd] *adj.* **1.** нецывілізава́ны, дзі́кі, ва́рварскі **2.** гру́бы, некульту́рны (*пра чалавека*)

**uncle** [ˈʌŋkl] *n.* дзя́дзька; **a maternal/paternal uncle** дзя́дзька па ма́церы/ба́цьку ♦ **talk to smb. like a Dutch uncle** павуча́ць каго́-н. пабацько́ўску

**unclean** [ˌʌnˈkliːn] *adj.* **1.** *fml* нячы́сты, бру́дны **2.** неаха́йны, мурза́ты **3.** амара́льны, непрысто́йны; **an unclean spirit** злы дух, дэ́ман

**Uncle Sam** [ˌʌŋklˈsæm] *n. infml* **1.** «дзя́дзька Сэм», ЗША; **work for Uncle Sam** быць на дзяржа́ўнай слу́жбе (*у ЗША*) **2.** амерыка́нцы

**Uncle Tom** [ˌʌŋklˈtɒm] *n. AmE, infml, derog.* здра́днік інтарэ́саў не́граў

**uncoil** [ˌʌnˈkɔɪl] *v.* **1.** размо́тваць; размо́твацца; **uncoil a rope** размо́тваць вяро́ўку **2.** раскру́чваць; раскру́чвацца

**uncolored** [ˌʌnˈkʌləd] *AmE* = **uncoloured**

**uncoloured** [ˌʌnˈkʌləd] *adj* **1.** бяско́лерны, бескаляро́вы **2.** непадро́блены; **a plain uncoloured tale** про́стая натура́льная гісто́рыя

**uncomfortable** [ʌnˈkʌmfətəbl] *adj.* **1.** нязру́чны; няўту́льны, некамфарта́бельны, некамфо́рт-

ны **2.** няёмкі; **feel uncomfortable with strangers** адчува́ць сябе́ няёмка з незнаёмымі
**uncomfortably** [ʌnˈkʌmfətəbli] *adv.* **1.** нязру́чна, няёмка, няўту́льна **2.** трыво́жна, неспако́йна; *The exams are uncomfortably close.* Нас непакоіць, што экзамены набліжаюцца.
**uncommitted** [ˌʌnkəˈmɪtɪd] *adj.* **(to)** нязвя́заны (*чым-н.*); які́ не далучы́ўся; **uncommitted nations** краі́ны, які́я не ўвахо́дзяць у бло́кі; **uncommitted voters** незале́жныя вы́баршчыкі
**uncommon** [ʌnˈkɒmən] *adj.* **1.** незвыча́йны, рэ́дкі; *It is not uncommon.* Так даволі часта бывае. **2.** *fml* надзвыча́йны; **uncommon likeness** надзвыча́йнае падабе́нства
**uncommonly** [ʌnˈkɒmənli] *adv. fml* надзвыча́йна; **uncommonly difficult** надзвы́чай цяжкі́
**uncomplicated** [ʌnˈkɒmplɪkeɪtɪd] *adj.* нескладаны; незаблы́таны, про́сты; **have an uncomplicated life** жыць про́ста
**uncompromising** [ʌnˈkɒmprəmaɪzɪŋ] *adj.* непахі́сны, няўмо́льны; сто́йкі; бескампрамі́сны; **an uncompromising stand** бескампрамі́сная пазі́цыя
**unconcern** [ˌʌnkənˈsɜːn] *n. fml* бесклапо́тнасць, бестурбо́тнасць; абыя́кавасць, раўнаду́шша, незацікаўленасць
**unconcerned** [ˌʌnkənˈsɜːnd] *adj.* **1.** **(with)** незацікаўлены, абыя́кавы; **be unconcerned with political issues** не ціка́віцца нія́кай палі́тыкай **2.** **(about/by)** бесклапо́тны, бестурбо́тны; абыя́кавы; **be unconcerned about the future** не клапаці́цца пра бу́дучае; *He seemed quite unconcerned.* Яму, здае́цца, было́ хоць бы што.
**unconditional** [ˌʌnkənˈdɪʃnəl] *adj.* безумо́ўны, безагаво́рачны; **unconditional surrender** безагаво́рачная капітуля́цыя; **an unconditional refusal** по́ўная адмо́ва
**unconditioned** [ˌʌnkənˈdɪʃnd] *adj. psychol.* безумо́ўны, абсалю́тны; **an unconditioned reflex** безумо́ўны рэфле́кс
**unconfirmed** [ˌʌnkənˈfɜːmd] *adj.* непацве́рджаны, нясцве́рджаны; **unconfirmed rumours** чу́ткі, які́я не пацве́рдзіліся
**unconquerable** [ʌnˈkɒŋkərəbl] *adj.* неперамо́жны; нязло́мны, несакруша́льны; **an unconquerable will** непахі́сная во́ля
**unconscionable** [ʌnˈkɒnʃənəbl] *adj. fml* празме́рны; **take an unconscionable time doing smth.** рабі́ць што-н. зана́дта до́ўга
**unconscionably** [ʌnˈkɒnʃənəbli] *adv. infml* зана́дта, празме́рна, шмат; **an unconscionably long time** цэ́лы век, цэ́лая ве́чнасць
**unconscious**[1] [ʌnˈkɒnʃəs] *n.* **the unconscious** *psychol.* падсвядо́мае
**unconscious**[2] [ʌnˈkɒnʃəs] *adj.* **1.** непрыто́мны **2.** **(of)** несвядо́мы; міжво́льны, неасэнсава́ны; *He was quite unconscious of having offended her.* Ён і не зразумеў, што пакрыўдзіў яе.
**unconsciously** [ʌnˈkɒnʃəsli] *adv.* несвядо́ма, ненаўмы́сна; міжво́льна
**unconsciousness** [ʌnˈkɒnʃəsnəs] *n.* стан непрыто́мнасці; **fall/lapse into unconsciousness** стра́ціць прыто́мнасць
**unconsidered** [ˌʌnkənˈsɪdəd] *adj. fml* **1.** неабду́маны, непраду́маны; **an unconsidered remark** непраду́маная заўва́га **2.** пакі́нуты без ува́гі, неразгле́джаны; *The details were left unconsidered.* Дэталі пакінулі без разгляду.
**uncontaminated** [ˌʌnkənˈtæmɪneɪtɪd] *adj.* незабру́джаны; незара́жаны; **uncontaminated water** незабру́джаная вада́
**uncontrollable** [ˌʌnkənˈtrəʊləbl] *adj.* бесканатро́льны, нястры́мны; **uncontrollable laughter** нястры́мны смех; **an uncontrollable child** дзіця́, яко́му не́льга даць ра́ды; свавольнік
**uncontrolled** [ˌʌnkənˈtrəʊld] *adj.* бесканатро́льны, нястры́мны (*пра пачуцці*); **uncontrolled liberty** по́ўная свабо́да
**unconventional** [ˌʌnkənˈventʃənl] *adj.* нетрадыцы́йны, нешабло́нны; **unconventional views** незвыча́йныя по́гляды
**unconvinced** [ˌʌnkənˈvɪnst] *adj.* неперакана́ны; *He remained unconvinced of his error.* Яго не пераканалі, што ён памыляўся.
**unconvincing** [ˌʌnkənˈvɪnsɪŋ] *adj.* неперакана́ўчы (*пра аргумент, доказ*)
**uncooked** [ˌʌnˈkʊkt] *adj.* сыры́, нязва́раны; *Eat plenty of uncooked vegetables.* Еш шмат сырой гародніны.
**uncork** [ˌʌnˈkɔːk] *v.* адкарко́ўваць
**uncountable** [ʌnˈkaʊntəbl] *adj. ling.* незлічальны (*пра назоўнік*)
**uncouple** [ˌʌnˈkʌpl] *v. tech.* расчапля́ць, расчэ́пліваць (*вагоны*)
**uncouth** [ʌnˈkuːθ] *adj.* нязгра́бны, нехлямя́жы, няспры́тны (*пра людзей*); гру́бы; **uncouth manners** гру́быя мане́ры
**uncover** [ʌnˈkʌvə] *v.* **1.** зніма́ць на́крыўку; адкрыва́ць (*твар*) **2.** раскрыва́ць, выяўля́ць (*план, злачынства, прычыну і да т.п.*)
**uncritical** [ˌʌnˈkrɪtɪkl] *adj.* **(of)** некрыты́чны; **an uncritical view** некрыты́чны пункт гле́джання
**uncrossed** [ʌnˈkrɒst] *adj.* неперакрэ́слены (*чэк*)
**uncrowded** [ʌnˈkraʊdɪd] *adj.* неперапо́ўнены; **an uncrowded district** маланасе́лены раён

**uncrowned** [ˌʌnˈkraʊnd] *adj.* некаранава́ны ♦ **the uncrowned king/queen (of smth.)** некаранава́ны каро́ль/некаранава́ная карале́ва (чаго́-н.)

**unction** [ˈʌŋkʃn] *n.* **1.** *eccl.* пама́занне; мі́ра для пама́зання **2.** *relig.* бо́ская ла́ска, суцяшэ́нне

**unctuous** [ˈʌŋktjuəs] *adj. fml, derog.* яле́йны, ліслі́вы; **unctuous assurances** ліслі́выя запэ́ўніванні

**uncurl** [ˌʌnˈkɜːl] *v.* **1.** развіва́ць; развіва́цца; раскру́чваць; раскру́чвацца (*пра локаны, кудзеры*)

**uncut** [ˌʌnˈkʌt] *adj.* **1.** з неразрэ́занымі а́ркушамі (*пра кнігу*) **2.** по́ўны, нескаро́чаны, без купю́р (*тэкст*) **3.** нешліфава́ны, негранёны, неапрацава́ны (*алмаз*)

**undamaged** [ʌnˈdæmɪdʒd] *adj.* непапсава́ны, неразбу́раны; **an undamaged reputation** непапсава́ная рэпута́цыя

**undated** [ˌʌnˈdeɪtɪd] *adj.* **1.** недатава́ны **2.** не адзна́чаны яко́й-н. зна́чнай падзе́яй

**undaunted** [ˌʌnˈdɔːntɪd] *adj. fml* бясстра́шны, адва́жны; му́жны; сто́йкі; *Although outnumbered, he was undaunted.* Ворагаў было многа, але ён не здаваўся.

**undecided** [ˌʌndɪˈsaɪdɪd] *adj.* **1.** нявы́ражаны, няпэ́ўны **2.** нерашу́чы; *I'm undecided* (*about*) *who to vote for.* Я яшчэ не вырашыла, за каго буду галасаваць.

**undeclared** [ˌʌndɪˈkleəd] *adj.* **1.** неабве́шчаны; **an undeclared war** неабве́шчаная вайна́ **2.** незадэклараваны на мы́тні (*пра тавар, які падлягае пошліне*)

**undefeated** [ˌʌndɪˈfiːtɪd] *adj.* неперамо́жаны; неразбу́раны

**undemanding** [ˌʌndɪˈmɑːndɪŋ] *adj.* непатрабава́льны; няця́жкі; **an undemanding job** няця́жкая пра́ца

**undemonstrative** [ˌʌndɪˈmɒnstrətɪv] *adj.* стры́маны (*пра чалавека і яго пачуцці*)

**undeniable** [ˌʌndɪˈnaɪəbl] *adj.* бясспрэ́чны, відаво́чны; **be of undeniable value** мець несумне́нную кашто́ўнасць; **a man of undeniable character** чалаве́к з выда́тнай рэпута́цыяй

**under¹** [ˈʌndə] *adv.* уні́зе, уні́з; ніжэ́й; *The ship went under.* Карабель затануў.

**under²** [ˈʌndə] *prep.* **1.** (*у розных знач.*) пад; **under the table** пад ло́жкам; **under the water** пад вадо́ю; **from under smth.** з-пад чаго́-н.; **under lock and key** пад замко́м; **under the same roof** пад адны́м да́хам; **under his very nose** у яго́ пад но́сам **2.** (*побач з чым-н.*) каля́, пад; **a village under a hill** вёска пад гаро́ю **3.** (*пры ўказанні на стан, умовы*) пад, у, на; **under the influence of smb.** пад чыі́м-н. уплы́вам; **under Roman rule** пад ула́дай Ры́ма; **work under smb.** працава́ць у каго́-н./пад кіраўні́цтвам каго́-н.; **under bad conditions** у ке́пскіх умо́вах; **under treatment** на лячэ́нні **4.** (*пры ўказанні на гістарычны перыяд*) за, над, у час, у эпо́ху; **under capitalism** пры капіталі́зме; **under the Stuarts** у эпо́ху Сцюа́ртаў **5.** (*пра колькасць, узрост*) ніжэ́й, менш чым; *It costs under 5 pounds.* Гэта каштуе менш за 5 фунтаў; *He's under forty.* Яму пад сорак; *He's under age.* Ён непаўналетні. **6.** (*перадаецца звычайна дзеясловам*); *The question is under discussion.* Пытанне абмяркоўваецца; *The car is under repair.* Машына рамантуецца. ♦ **under one's breath** ці́хім го́ласам; **be under a cloud** быць у ця́жкім стано́вішчы; мець ке́пскую рэпута́цыю; **under the sun** на зямлі́; на све́це; пад со́нцам

**underachieve** [ˌʌndərəˈtʃiːv] *v.* працава́ць або́ вучы́цца не ў по́ўную сі́лу, не дасяга́ць свайго́ ўзро́ўню

**underage** [ˈʌndərˌeɪdʒ] *adj.* непаўнале́тні; **underage drinking** злоўжыва́нне алкаго́лем непаўнале́тнімі

**underarm** [ˈʌndərɑːm] *adj.* **1.** падпа́хавы **2.** *sport* кане́сены зні́зу (*удар*)

**underbar** [ˈʌndəbɑː] *n. comput.* сі́мвал падкрэ́слівання ( _ )

**underbelly** [ˈʌndəbeli] *n.* **1.** ніз жывата́ **2.** сла́бае ме́сца; *The crisis struck at the soft underbelly of the economy.* Крызіс ударыў па слабым месцы эканомікі.

**underbid** [ˌʌndəˈbɪd] *v.* **(underbid)** збіва́ць цану́, прапано́ўваць больш ні́зкую цану́ (*на аўкцыёне*)

**underbrush** [ˈʌndəbrʌʃ] *n. AmE* = **undergrowth**

**undercarriage** [ˈʌndəkærɪdʒ] *n.* шасі́ (*самалёта*); **raise/lower the undercarriage** падніма́ць/спуска́ць шасі́

**undercharge¹** [ˈʌndətʃɑːdʒ] *n.* надзвы́чай ні́зкая цана́

**undercharge²** [ˌʌndəˈtʃɑːdʒ] *v.* **(for)** прасі́ць залі́шне ма́ла (*пра цану*)

**underclothes** [ˈʌndəkləʊðz] *n. pl.* спо́дняя бялі́зна, спо́дняе

**underclothing** [ˈʌndəkləʊðɪŋ] *n. fml* = **underclothes**

**undercoat** [ˈʌndəkəʊt] *n.* грунто́ўка (*пад фарбу*)

**undercover** [ˌʌndəˈkʌvə] *adj.* та́йны, сакрэ́тны; **an undercover agent** та́йны аге́нт

**undercurrent** [ˈʌndəkʌrənt] *n.* **1.** падво́днае цячэ́нне, падво́дная плынь **2.** скры́тая тэндэ́нцыя; *There was an undercurrent of opposition.* Адчувалася скрытае супраціўленне.

**undercut** [ˌʌndəˈkʌt] *v.* **(undercut)** прадава́ць танне́й (*у параўнанні з канкурэнтам*); збіва́ць цану́; **undercut smb.'s authority** падрыва́ць чый-н. аўтарытэ́т

**underdeveloped** [ˌʌndədɪˈveləpt] *adj. dated* недара́звіты; слабара́звіты; **underdeveloped countries** эканамі́чна слабара́звітыя краі́ны

**underdog** [ˈʌndədɒg] *n.* няўда́чнік; няўда́чніца; *In politics, he was a champion of the underdog.* У палітыцы ён заўжды быў на баку слабейшых.

**underdone** [ˌʌndəˈdʌn] *adj.* недасма́жаны; недапе́чаны; *The meat was underdone and quite uneatable.* Мяса было недасмажанае і таму зусім непрыдатнае для яды.

**underestimate**[1] [ˌʌndərˈestɪmət] *n.* недааца́нка

**underestimate**[2] [ˌʌndərˈestɪmeɪt] *v.* недааца́ньваць; зані́зка аца́ньваць; *You underestimated your opponent.* Ты недааца́ніў свайго апанента.

**underestimation** [ˌʌndərˌestɪˈmeɪʃn] *n.* = **underestimate**[1]

**underfed** [ˌʌndəˈfed] *adj.* недакóрмлены; які́ ке́пска харчу́ецца, не даяда́е

**underfloor** [ˌʌndəˈflɔː] *adj.* які́ прахо́дзіць пад падло́гаю; **underfloor heating** ацяпле́нне, праве́дзенае пад падло́гаю

**underfoot** [ˌʌndəˈfʊt] *adv.* пад нага́мі; **trample underfoot** затапта́ць, растапта́ць нага́мі

**undergo** [ˌʌndəˈgəʊ] *v.* **(underwent, undergone) 1.** перано́сіць (*цяжкасці, пакуты і да т.п.*) **2.** падвярга́цца; **undergo a great change** мо́цна змяні́цца; *He underwent an operation.* Ён перанёс аперацыю.

**undergone** [ˌʌndəˈgɒn] *p.p.* → **undergo**

**undergraduate** [ˌʌndəˈgrædʒuət] *n.* студэ́нт кале́джа або́ ўніверсітэ́та; **an undergraduate at Oxford** студэ́нт О́ксфардскага ўніверсітэ́та

**underground**[1] [ˈʌndəgraʊnd] *n.* **the underground** метро́; **travel by underground** е́хаць на метро́

**underground**[2] [ˈʌndəgraʊnd] *adj.* **1.** падзе́мны **2.** падпо́льны, та́йны, нелега́льны; **underground activities** падпо́льная дзе́йнасць

**underground**[3] [ˌʌndəˈgraʊnd] *adv.* **1.** пад зямлёю; **water flowing underground** грунто́выя во́ды **2.** та́йна, тае́мна, сакрэ́тна, падпо́льна; **go underground** ісці́ ў падпо́лле

**undergrowth** [ˈʌndəgrəʊθ] *n. BrE* падле́сак, драбнале́ссе

**underhand** [ˌʌndəˈhænd] *adj.* таямні́чы, тае́мны; **underhand methods** закулі́сныя ме́тады

**underlain** [ˌʌndəˈleɪn] *p.p.* → **underlie**

**underlay** [ˌʌndəˈleɪ] *past* → **underlie**

**underlie** [ˌʌndəˈlaɪ] *v.* **(underlay, underlain)** *fml* **1.** ляжа́ць (*пад чым-н.*) **2.** быць асно́ваю (*тэорыі, прынцыпаў і да т.п.*)

**underline** [ˌʌndəˈlaɪn] *v.* падкрэ́сліваць; надава́ць асо́бы сэнс

**underling** [ˈʌndəlɪŋ] *n. derog.* паднача́леная асо́ба; дро́бная со́шка; **the boss and his underlings** бос са сваі́мі паднача́ленымі

**underlying** [ˌʌndəˈlaɪŋ] *adj.* гало́ўны; які́ ляжы́ць у асно́ве; **underlying principles** гало́ўныя пры́нцыпы; **the underlying reason for the refusal** гало́ўная прычы́на для адмо́вы

**undermanned** [ˌʌndəˈmænd] *adj.* неўкамплектава́ны (*пра штат*); **undermanned hospitals** шпіта́лі, у які́х не хапа́е персана́лу

**undermentioned** [ˌʌndəˈmenʃnd] *adj. fml* ніжэйзгада́ны, ніжэйназва́ны, ніжэйпамянёны

**undermine** [ˌʌndəˈmaɪn] *v.* **1.** падко́пваць, рабі́ць падко́п **2.** падмыва́ць (*берагі*) **3.** падрыва́ць (*рэпутацыю, здароўе*)

**underneath**[1] [ˌʌndəˈniːθ] *n.* **the underneath** спод (*ніжняя частка чаго-н.*)

**underneath**[2] [ˌʌndəˈniːθ] *adv.* уні́зе; уні́з, до́лу; *The summary is given underneath.* Высновы прыводзяцца ніжэй.

**underneath**[3] [ˌʌndəˈniːθ] *prep.* пад; **underneath the trees** пад дрэ́вамі; **blood vessels just underneath the skin** крывяно́сныя сасу́ды, які́я знахо́дзяцца непасрэ́дна пад ску́рай; **from underneath the floor** з-пад падло́гі

**undernourishment** [ˌʌndəˈnʌrɪʃmənt] *n.* недастатко́вае кармле́нне, недакóрм; недаяда́нне, недастатко́вае харчава́нне

**underpaid**[1] [ˌʌndəˈpeɪd] *past, p.p.* → **underpay**

**underpaid**[2] [ˌʌndəˈpeɪd] *adj.* нізкааплá́тны; **underpaid workmen** рабо́чыя, які́м ма́ла пла́цяць або́ недапла́чваюць

**underpants** [ˈʌndəpænts] *n. pl.* спо́днікі, кальсо́ны; трусы́ (*мужчынскія*)

**underpass** [ˈʌndəpɑːs] *n.* **1.** перахо́д, пра́езд пад палатно́м чыгу́нкі **2.** падзе́мны, ву́лічны перахо́д; пешахо́дны тунэ́ль

**underpay** [ˌʌndəˈpeɪ] *v.* **(underpaid)** ве́льмі ні́зка апло́чваць, недапло́чваць, зама́ла плаці́ць

**underpin** [ˌʌndəˈpɪn] *v.* **1.** падво́дзіць фунда́мент (*пад будынак*) **2.** падтры́млiваць, падмацо́ўваць (*доказы, тэзісы і да т.п.*); **underpin the thesis with facts** падмацо́ўваць тэ́зіс фа́ктамі

**underplay** [ˌʌndəˈpleɪ] *v. theatre* ігра́ць ніжэ́й сваі́х магчы́масцей; выко́нваць ро́лю стры́мана

**underprivileged** [ˌʌndəˈprɪvɪdʒd] *adj.* абмежава́ны ў права́х, пазба́ўлены прывіле́яў, право́ў; **underpriviliged children** дзе́ці з бе́дных се́м'яў

**underrate** [ˌʌndəˈreɪt] *v.* недааца́ньваць; **underrate one's opponent** недааца́ньваць свайго́

апане́нта; *He is underrated as a writer.* Яго недаацэньваюць як пісьменніка.

**underscore** [ˌʌndəˈskɔː] *v.* = **underline**

**undersea** [ˈʌndəsiː] *adj.* падво́дны; **an undersea fleet** падво́дны флот; **undersea oil deposits** за́лежы на́фты на марскі́м дне

**undersecretary** [ˌʌndəˈsekrətri] *n.* **1.** наме́снік Генера́льнага сакратара́ (*ААН*) **2.** *BrE* наме́снік або́ памо́чнік міні́стра; **Parliamentary Undersecretary of State** парла́менцкі наме́снік міні́стра (*член урада*)

**undersell** [ˌʌndəˈsel] *v.* **(undersold)** прадава́ць па зані́жанай цане́, прадава́ць танне́й; **undersell a competitor** прадава́ць танне́й за канкурэ́нта

**undershirt** [ˈʌndəʃɜːt] *n.* *AmE* ма́йка; спо́дняя кашу́ля

**underside** [ˈʌndəsaɪd] *n.* ніз, ні́жняя ча́стка (*прадмета*); дно

**undersigned** [ˌʌndəˈsaɪnd] *n.* *fml* **the undersigned:** *We, the undersigned, declare that ...* Мы, падпісанты, заяўляем, што...

**undersized** [ˌʌndəˈsaɪzd] *adj.* **1.** паме́ншаны, непаўнаме́рны (*пра памер*) **2.** ка́рлікавы, нізкаро́слы; **undersized portions of food** по́рцыі е́жы ніжэ́й за но́рму

**underskirt** [ˈʌndəskɜːt] *n.* ні́жняя спадні́ца

**underslip** [ˌʌndəˈslɪp] *n.* чахо́л суке́нкі

**undersold** [ˌʌndəˈsəʊld] *past, p.p.* → **undersell**

**understaffed** [ˌʌndəˈstɑːft] *adj.* неўкамплектава́ны (*пра штат*); *The school is badly understaffed.* У школе не хапае настаўніцкіх кадраў.

**understand** [ˌʌndəˈstænd] *v.* **(understood) 1.** разуме́ць **2.** ахо́пліваць (*розумам*), уяўля́ць; *Try and understand my difficulties.* Паспрабуй зразумець мае цяжкасці. **3.** *fml* пачу́ць, даве́дацца; *I understand that he is in Oxford.* Я чуў, што ён у Оксфардзе; **give (smb.) to understand** *fml* даць (каму́-н.) зразуме́ць ♦ **make oneself understood** уме́ць вы́тлумачыцца; *Can you make yourself understood in German?* Вы можаце гаварыць па-нямецку так, каб вас разумелі?

**understandable** [ˌʌndəˈstændəbl] *adj.* зразуме́лы; *His objections are understandable.* Яго пярэчанні можна зразумець.

**understanding¹** [ˌʌndəˈstændɪŋ] *n.* **1.** ро́зум; здо́льнасць разуме́ць; інтэле́кт; **a man of understanding** чалаве́к з галаво́ю **2. (of)** разуме́нне; *He has a good understanding of economics.* Ён добра разумее эканоміку. **3.** зго́да, пагадне́нне, дамо́ўленасць; **come to/reach an understanding** дамо́віцца **4.** *fml* тлумачэ́нне, інтэрпрэта́цыя; *This is my understanding of the affair.* Я разумею гэта такім чынам. ♦ **on the understanding that..., on this understanding** *fml* пры ўмо́ве, што..., пры гэ́тай умо́ве

**understanding²** [ˌʌndəˈstændɪŋ] *adj* **1.** разу́мны; які разуме́е; **understanding parents** разу́мныя бацькі́ **2.** чуллі́вы, чу́лы, спага́длівы; **an understanding smile** спага́длівая ўсме́шка

**understate** [ˌʌndəˈsteɪt] *v.* **1.** выка́звацца стры́мана, недагаво́рваць; **understate one's views** не выка́зваць по́ўнасцю свой пункт гле́джання **2.** прымянша́ць, заніжа́ць; *She understated her age on the census form.* Яна прыменшыла свой узрост на бланку перапісу.

**understatement** [ˌʌndəˈsteɪtmənt] *n.* **1.** стры́манае выка́званне; **typical English understatement** тыпо́вая англі́йская стры́манасць **2.** заніжэ́нне, прымяншэ́нне

**understood** [ˌʌndəˈstʊd] *past, p.p.* → **understand**

**understudy¹** [ˈʌndəˌstʌdi] *n.* *theatre* дублёр

**understudy²** [ˈʌndəˌstʌdi] *v.* *theatre* дубліравáць (*ролю*); **understudy (the role of) Macbeth** дубліравáць і́ншага акцёра ў ро́лі Ма́кбета

**undertake** [ˌʌndəˈteɪk] *v.* *fml* **(undertook, undertaken) 1.** браць на сябе́ абавя́зкі; **undertake a responsible post** заня́ць адка́зную паса́ду **2.** руча́цца; дава́ць гара́нтыю, абяца́ць, гарантава́ць; *He undertook to finish the job by Friday.* Ён паабяцаў скончыць працу да пятніцы.

**undertaken** [ˌʌndəˈteɪkn] *p.p.* → **undertake**

**undertaker** [ˈʌndəteɪkə] *n.* супрацо́ўнік пахава́льнага бюро́

**undertaking** [ˌʌndəˈteɪkɪŋ] *n.* **1.** спра́ва, пачы́н, пачына́нне; **a risky undertaking** рызыко́ўная спра́ва; **a commercial undertaking** камерцы́йная спра́ва **2.** *fml* абяца́нне, гара́нтыя; **give a solemn undertaking** дава́ць сур'ёзнае абяца́нне **3.** [ˈʌndəteɪkɪŋ] пахава́льнае бюро́

**under-the-counter** [ˌʌndəðəˈkaʊntə] *adj.* **1.** тое, што прадае́цца з-пад прыла́ўка **2.** *infml* незако́нны, нелега́льны; **under-the-counter dealings** цёмныя спра́вы

**undertone** [ˈʌndətəʊn] *n.* **1.** паўто́н **2.** падтэ́кст, скры́ты змест, імпліка́цыя; **malicious undertones** зласлі́выя намёкі **3.** адце́нне (*колеру*); **pink with an undertone of mauve** ружо́вы з адце́ннем ліло́вага ♦ **talk in undertones** размаўля́ць ці́ха, напаўго́ласу

**undertook** [ˌʌndəˈtʊk] *past* → **undertake**

**undertow** [ˈʌndətəʊ] *n.* **1.** адка́т (*прыбою*), адлі́ў (*хвалі*) **2.** мо́цная падво́дная плынь (*перан.*)

**undervalue** [ˌʌndəˈvæljuː] *v.* недааца́ньваць, ні́зка цані́ць

**underwater** [ˌʌndəˈwɔːtə] *adj.* падво́дны; **underwater sport** падво́дны спорт; **an underwater sportsman** спартсме́н-падво́днік

**underway** [ˌʌndəˈweɪ] *adv.* у працэ́се распрацо́ўкі, рэаліза́цыі (*пра план, праект і да т.п.*) ♦ **be underway:** *All is underway.* Усё ідзе сваім парадкам.

**underwear** [ˈʌndəweə] *n. fml* спо́дняя бялі́зна, спо́дняе

**underweight** [ˌʌndəˈweɪt] *adj.* недава́жаны; лёгкі; *He is underweight.* Яго вага ніжэй за норму.

**underwent** [ˌʌndəˈwent] *past* → **undergo**

**underwood** [ˈʌndəwʊd] *n.* падле́сак

**underworld** [ˈʌndəwɜːld] *n.* **1.** пadóнкі грама́дства; «дно»; злачы́нны свет **2. the underworld** апраме́тная, пе́кла; падзе́мнае ца́рства

**underwrite** [ˌʌndəˈraɪt] *v.* **(underwrote, underwritten) 1.** падпі́сваць; падпі́свацца **2.** страхава́ць (*судны, грузы і да т.п.*)

**underwriter** [ˈʌndəraɪtə] *n.* страхава́льнік; страхава́я кампа́нія

**undeserved** [ˌʌndɪˈzɜːvd] *adj.* незаслу́жаны; **an undeserved reward** незаслу́жаная ўзнагаро́да

**undesirable** [ˌʌndɪˈzaɪərəbl] *adj.* **1.** нежада́ны, непажада́ны; нязру́чны; **an undesirable moment** нязру́чны мо́мант; *He called at a most undesirable moment.* Ён прыйшоў у самы нязручны момант. **2.** падазро́ны; **a most undesirable person** надзвы́чай падазро́ная асо́ба

**undetectable** [ˌʌndɪˈtektəbl] *adj.* недасту́пны; *This sound is undetectable to the human ear.* Гэты гук недаступны для чалавечага вуха.

**undetermined** [ˌʌndɪˈtɜːmɪnd] *adj.* **1.** няпэ́ўны, нявы́рашаны, нявы́значаны; *One question still remains undetermined.* Адно пытанне дасюль яшчэ застаецца адкрытым. **2.** нерашу́чы (*пра характар*)

**undeterred** [ˌʌndɪˈtɜːd] *adj.* **:** *He was undeterred by failure.* Правал яго не збянтэжыў.

**undeveloped** [ˌʌndɪˈveləpt] *adj.* **1.** неразвіты́; нястá лы (*пра розум, цягліцы, расліны*) **2.** няўро́блены, неапрацава́ны (*пра зямлю*) **3.** неразвіты́ (*пра краіну*)

**undid** [ʌnˈdɪd] *past* → **undo**

**undies** [ˈʌndiz] *n. pl. infml* спо́дняя бялі́зна (*звыч. жаночая*)

**undigested** [ˌʌndaɪˈdʒestɪd] *adj* **1.** неператра́ўлены (*пра ежу*) **2.** незасво́ены, неўспрыня́ты; **an undigested theory** незасво́еная тэо́рыя

**undignified** [ʌnˈdɪgnɪfaɪd] *adj.* пазба́ўлены го́днасці; яко́му браку́е го́днасці

**undiluted** [ˌʌndaɪˈluːtɪd] *adj.* неразба́ўлены, неразве́дзены; **undiluted nonsense** чы́стая бязглу́здзіца

**undiminished** [ˌʌndɪˈmɪnɪʃt] *adj.* нязме́ншаны; *His unfluence remained undiminished.* Яго ўплыў не паменшыўся.

**undischarged** [ˌʌndɪsˈtʃɑːdʒd] *adj* **1.** нявы́кананы (*абавязак*) **2.** незапла́чаны, нявы́плачаны (*доўг*)

**undisciplined** [ʌnˈdɪsɪplɪnd] *adj* **1.** ненаву́чаны, ненатрэніравáны; **an undisciplined mind** неразвіты́ ро́зум **2.** недысцыплінава́ны; непаслухмя́ны

**undiscovered** [ˌʌndɪsˈkʌvəd] *adj.* нераскры́ты, недасле́даваны, невядо́мы; **a previously undiscovered talent** не раскры́ты ране́й та́лент

**undisputed** [ˌʌndɪˈspjuːtɪd] *adj.* бяссрэ́чны; несумне́нны; які́ не выкліка́е сумне́ву; **undisputed talents** бясспрэ́чныя та́ленты

**undistinguished** [ˌʌndɪˈstɪŋgwɪʃt] *adj* **1.** няя́сны **2.** непрыкме́тны, пасрэ́дны; **an undistinguished performance** сла́бае вы́кананне (*музычнага твора, ролі і да т.п.*)

**undisturbed** [ˌʌndɪˈstɜːbd] *adj.* непатрыво́жаны, спако́йны; **undisturbed sleep** спако́йны сон; *We found everything undisturbed.* Мы ўбачылі, што ўсё ў парадку.

**undivided** [ˌʌndɪˈvaɪdɪd] *adj.* цэ́лы, нераздзе́лены; **undivided opinion** аднагало́снасць; **undivided attention** засяро́джанасць; *You have my (full and) undivided attention.* Я вас надзвычай уважліва слухаю.

**undo** [ʌnˈduː] *v.* **(undid, undone) 1.** расшпі́льваць; развязва́ць **2.** руйнава́ць, знішча́ць зро́бленае; **undo the knitting** распуска́ць вяза́нне; **UNDO** ка́манда ў камп'ютары «Ліквідава́ць»

**undoing** [ʌnˈduːɪŋ] *n.* пагі́бель, падзе́нне; *Drink was his undoing.* Яго загубіла п'янства.

**undone**[1] [ʌnˈdʌn] *adj.* **1.** расшпі́лены, развя́заны; *Her shoelace has come underdone.* У яе развязаўся шнурок чаравіка. **2.** нязро́блены, няско́нчаны

**undone**[2] [ʌnˈdʌn] *p.p.* → **undo** ♦ **what is done cannot be undone** зро́бленага не ве́рнеш

**undoubted** [ʌnˈdaʊtɪd] *adj.* **1.** несумне́нны, бясспрэ́чны **2.** сапра́ўдны

**undoubtedly** [ʌnˈdaʊtɪdli] *adv.* бясспрэ́чна, безумо́ўна; *The painting is undoubtedly genuine.* Карціна, несумненна, сапраўдная.

**undreamed-of** [ʌnˈdriːmdɒv] *adj.* невераго́дны, неймаве́рны, нечува́ны; нечака́ны; *Wonders which are still undreamed-of.* Цуды, якія і ў сне не сніліся.

**undress** [ʌnˈdres] *v.* **1.** раздзява́ць; раздзява́цца; распрана́ць; распрана́цца **2.** разбінто́ўваць, здыма́ць павя́зку

**undressed** [ʌnˈdrest] *adj.* **1.** раздзе́ты, распра́нены, распра́нуты **2.** неперавя́заны, незабінтава́ны; **an undressed wound** незабінтава́ная ра́-

на; **get undressed** раздзява́цца, распрана́цца **3. : undressed meat** мя́са без гарні́ру

**undrinkable** [ʌnˈdrɪŋkəbl] *adj.* непрыда́тны для піцця́; *This water is undrinkable.* Гэтую ваду нельга піць.

**undue** [ʌnˈdjuː] *adj. fml* празме́рны; **with undue haste** празме́рна спяша́ючыся; **show undue concern over smb./smth.** пака́зваць празме́рную заклапо́чанасць кім-н./чым-н.

**undulate** [ˈʌndjuleɪt] *v. lit.* ру́хацца, зы́бацца, калыха́цца хва́лямі; **an undulating landscape** узго́рысты краяві́д; **undulating hair** кучара́вая валасы́; *The field of wheat is undulating in the breeze.* Поле пшаніцы калышацца ад лёгкага ветрыку.

**undulation** [ˌʌndjuˈleɪʃn] *n.* **1.** хва́лістасць **2.** няро́ўная паве́рхня **3.** *tech.* ундуля́цыя, хва́лісты рух

**unduly** [ˌʌnˈdjuːli] *adv. fml* празме́рна, надзвы́чай, зана́дта; *He was unduly optimistic.* Ён быў залішне аптымістычным.

**undying** [ʌnˈdaɪŋ] *adj.* бессмяро́тны; неўміру́чы; **undying glory** ве́чная сла́ва; **an undying interest** нязга́сны інтарэ́с

**unearned** [ˌʌnˈɜːnd] *adj.* незаро́блены (*праўдай*); незаслу́жаны; **unearned income** непрацо́ўны дахо́д; **unearned praise** незаслу́жаная пахвала́

**unearth** [ʌnˈɜːθ] *v.* **1.** дастава́ць з-пад зямлі́, адко́пваць **2.** раскрыва́ць, раско́пваць; **unearth a mystery** раскры́ць таямні́цу

**unearthly** [ʌnˈɜːθli] *adj.* **1.** незямны́; звышнатура́льны; **unearthly beauty** незямна́я прыгажо́сць; **unearthly love** ідэ́альнае каха́нне **2.** *infml* непрыда́тны, нязру́чны; **at an unearthly hour** у зусі́м нязру́чны час

**unease** [ʌnˈiːz] *n.* **1.** трыво́га, хвалява́нне **2.** няёмкасць, нязру́чнасць

**uneasiness** [ʌnˈiːzinəs] *n.* = **unease**

**uneasy** [ʌnˈiːzi] *adj.* **1. (about, at)** устрыво́жаны, устурбава́ны, занепако́ены; **uneasy dreams** трыво́жныя сны; **feel uneasy about smth.** трыво́жыцца, непако́іцца аб чым-н. **2.** няёмкі; збянтэ́жаны; **an uneasy smile** сарамлі́вая ўсме́шка; *I feel uneasy.* Я адчуваю сябе няёмка.

**uneatable** [ʌnˈiːtəbl] *adj.* непрыда́тны для яды́; *This soup is uneatable.* Гэты суп нельга есці.

**uneaten** [ʌnˈiːtn] *adj. lit.* недаé́дзены; **uneaten food** рэ́шткі е́жы, аб’е́дкі са стала́

**uneconomic** [ˌʌnˌiːkəˈnɒmɪk] *adj.* неэканамі́чны; нерэнта́бельны; **uneconomic industry** нерэнта́бельная прамысло́васць

**uneconomical** [ˌʌnˌiːkəˈnɒmɪkl] *adj.* неэкано́мны, неашча́дны; небераждлі́вы; **an uneconomical method of house-keeping** неэкано́мны ме́тад вядзе́ння гаспада́ркі

**uneducated** [ʌnˈedʒukeɪtɪd] *adj.* неадукава́ны, нявý́чаны; **uneducated speech** малапісьме́нная мо́ва; **an uneducated person** не́вук

**unemployed** [ˌʌnɪmˈplɔɪd] *n., adj.* **1.** беспрацо́ўны; **the unemployed** беспрацо́ўныя **2.** незаня́ты, нескарыста́ны; **unemployed capital** мёртвы капіта́л

**unemployment** [ˌʌnɪmˈplɔɪmənt] *n.* беспрацо́ўе; **hidden/disguised unemployment** скры́тае беспрацо́ўе; **the unemployment rate** узро́вень беспрацо́ўя

**unemployment benefit** [ʌnɪmˈplɔɪmənt ˌbenɪfɪt] *n. BrE* дапамо́га па беспрацо́ўі

**unemployment compensation** [ʌnɪmˌplɔɪmənt-kɒmpenˌseɪʃn] *n. AmE* = **unemployment benefit**

**unending** [ʌnˈendɪŋ] *adj.* бяско́нцы, нескančо́ны; ве́чны; *I’m sick and tired of your unending comments.* Мне абрыдлі твае вечныя заўвагі.

**unenviable** [ʌnˈenviəbl] *adj.* незайздро́сны; **an unenviable task** незайздро́снае зада́нне

**unequal** [ʌnˈiːkwəl] *adj.* **(in) 1.** няро́ўны, нераўназна́чны; неадно́лькавы; **an unequal match** няро́ўны шлюб **2.** нераўнапра́ўны, несправядлі́вы; **an unequal contest** няро́ўнае спабо́рніцтва **3.** *fml* **(to)** неадпаве́дны, неадэква́тны; недастатко́вы; **feel unequal to the task** адчува́ць сябе непрыда́тным для тако́й пра́цы

**unequalled** [ʌnˈiːkwəld] *adj.* неперася́гнуты, неперапаўзы́дзены; найдасканáлейшы; **unequalled cruelty** нечува́ная жо́рсткасць; *His skill is unequalled.* Яго майстэрству няма роўнага.

**unequivocal** [ˌʌnɪˈkwɪvəkl] *adj. fml* недвухсэ́нсавы; пэ́ўны, я́сны, відаво́чны; **give an unequivocal answer** даць я́сны адка́з

**unerring** [ʌnˈɜːrɪŋ] *adj.* беспамылко́вы, пра́вільны; **her unerring taste in clothes** яе бездако́рны густ апрана́цца

**UNESCO** [juːˈneskəʊ] (*скар. ад* **United Nations Educational Scientific and Cultural Organization**) ЮНЕ́СКА

**unethical** [ʌnˈeθɪkl] *adj.* неэты́чны; **unethical decisions** неэты́чныя рашэ́нні

**uneven** [ʌnˈiːvn] *adj.* **1.** няро́ўны, крывы́; шурпа́ты; **uneven handwriting** кара́вы по́чырк **2.** няро́ўны, неўраўнава́жаны; *He is a man of uneven temper.* Ён мае неўраўнаважаны характар. **3.** нерэгуля́рны, няпра́вільны; **an uneven pulse** няро́ўны пульс **4.** няцо́тны (*пра лік*)

**unevenly** [ʌnˈiːvnli] *adv.* няро́ўна; **unevenly distributed** няро́ўна размеркава́ны

**unexceptionable** [ˌʌnɪkˈsepʃənəbl] *adj.* бездако́рны, дасканáлы; *His taste was unexceptionable.* Ён меў бездакорны густ.

**unexceptional** [ˌʌnɪkˈsepʃənl] *adj.* **1.** звычáйны **2.** даклáдны, без выключэ́нняў; **an unexceptional rule** прáвіла без выключэ́нняў

**unexpected** [ˌʌnɪkˈspektɪd] *adj.* нечакáны, неспадзявáны, раптóўны; **unexpected news** нечакáная навінá

**unexpectedly** [ˌʌnɪkˈspektɪdli] *adv.* нечакáна, неспадзявáна, раптóўна; *He arrived unexpectedly.* Ён прыехаў нечакана.

**unfailing** [ʌnˈfeɪlɪŋ] *adj.* **1.** невычарпáльны, невычэ́рпны; **his unfailing devotion** яго бязмéжная аддáнасць **2.** надзéйны; нязмéнны; нястóмны; **an unfailing friend** вéрны ся́бар

**unfailingly** [ʌnˈfeɪlɪŋli] *adv.* нязмéнна, заўжды́; **unfailingly devoted** заўжды́ вéрны

**unfair** [ˌʌnˈfeə] *adj.* **1.** несправядлі́вы, прадузя́ты; **be unfair to smb.** быць несправядлі́вым да кагó-н. **2.** несумлéнны; **by unfair means** несумлéннымі мéтадамі

**unfaithful** [ʌnˈfeɪθfəl] *adj.* **(to)** нявéрны; здрáдлівы; верарлóмны; **an unfaithful husband** нявéрны муж

**unfaithfulness** [ʌnˈfeɪθfəlnəs] *n.* нявéрнасць; здрáдніцтва, прадáжніцтва

**unfaltering** [ʌnˈfɔːltərɪŋ] *adj.* цвёрды; рашу́чы, непахі́сны; **an unfaltering gaze** пі́льны пóгляд; **unfaltering courage** непахі́сная хрáбрасць; нязлóмная му́жнасць

**unfamiliar** [ˌʌnfəˈmɪliə] *adj.* **1.** незнаёмы, чужы́; *His face is not unfamiliar to me.* Я яго недзе бачыў. **2. (with)** незнаёмы, неазнаёмлены; *I'm unfamiliar with the habits of the country.* Я не ведаю звычаяў гэтай краіны.

**unfasten** [ʌnˈfɑːsn] *v.* **1.** расшпі́льваць; расшпі́львацца; адшпі́льваць; адшпі́львацца **2.** развя́зваць; развя́звацца; **unfasten one's hold** вы́пусціць з рук

**unfastened** [ʌnˈfɑːsnd] *adj.* расшпі́лены; развя́заны; **unfastened hair** распу́шчаныя валасы́

**unfathomable** [ʌnˈfæðəməbl] *adj. fml* **1.** бяздóнны; невымéрны (*пра глыбіні*) **2.** незразумéлы, невытлумачáльны; **an unfathomable mystery** загáдкавая таямні́ца

**unfavorable** [ʌnˈfeɪvərəbl] *AmE* = **unfavourable**

**unfavourable** [ʌnˈfeɪvərəbl] *adj.* **(for/to)** неспрыя́льны (*пра надвор'е, умовы*); непрыхі́льны (*пра крытыку*)

**unfeeling** [ʌnˈfiːlɪŋ] *adj.* неадчувáльны; бессардэ́чны, нячу́лы; **an unfeeling villain** бязду́шны ліхадзéй

**unfeigned** [ʌnˈfeɪnd] *adj. lit.* непрытвóрны, шчы́ры; **show unfeigned satisfaction** вы́казаць шчы́рае задавальнéнне

**unfinished** [ʌnˈfɪnɪʃt] *adj.* **1.** незакóнчаны, незавéршаны **2.** гру́бы, неапрацавáны, неадшліфавáны; **unfinished goods** паўфабрыкáты

**unfit** [ʌnˈfɪt] *adj.* **(for) 1.** непрыдáтны, непрыгóдны; нязда́тны; *He's unfit to drive.* Ён не можа весці машыну. **2.** нездарóвы; непрыгóдны; **medically unfit for service** непрыгóдны да вайскóвай слу́жбы

**unflagging** [ˌʌnˈflægɪŋ] *adj.* неасла́бны; **unflagging energy** неаслáбная энéргія

**unflappable** [ˌʌnˈflæpəbl] *adj. infml* спакóйны, стры́маны; які не губля́е прысу́тнасць ду́ху

**unflinching** [ʌnˈflɪntʃɪŋ] *adj.* рашу́чы, цвёрды, непахі́сны, стóйкі; **unflinching courage** непахі́сная му́жнасць

**unfold** [ʌnˈfəʊld] *v.* **1.** разгóртваць; разгóртвацца; развінáць; развінáцца; *The plain unfolded before us.* Перад намі рассцілалася раўніна. **2.** адкрывáць, раскрывáць, тлумáчыць (*планы, думкі і да т.п.*); *She unfolded her plans to me.* Яна расказала мне пра свае планы.

**unforeseen** [ˌʌnfɔːˈsiːn] *adj.* непрадбáчаны, нечакáны; **unforeseen events** нечакáныя падзéі

**unforgettable** [ˌʌnfəˈgetəbl] *adj.* незабы́ўны, пáмятны; **an unforgettable impression** незабы́ўнае ўрáжанне

**unforgivable** [ˌʌnfəˈgɪvəbl] *adj.* недаравáльны; **an unforgivable sin** недаравáльны грэх

**unformed** [ˌʌnˈfɔːmd] *adj.* **1.** яшчэ́ не сфармавáны, няствóраны; неразвіты́; **an unformed mind** неразвіты́ рóзум **2.** бясфóрменны, амóрфны

**unfortunate**[1] [ʌnˈfɔːtʃənət] *n.* няўдáчнік; няўдáчніца; гарóтнік; гарóтніца

**unfortunate**[2] [ʌnˈfɔːtʃənət] *adj.* **1.** няшчáсны, нешчаслі́вы; **how unfortunate!** як шкадá!; які жаль!; *He was just unfortunate*. Яму проста не шанцавала. **2.** неадпавéдны; няўдáлы; **an unfortunate joke** недарэ́чны жарт

**unfortunately** [ʌnˈfɔːtʃənətli] *adv.* **(for)** на жаль; **unfortunately for him** на ягó бяду́

**unfounded** [ʌnˈfaʊndɪd] *adj. fml* неабгрунтавáны; беспадстáўны; **unfounded rumours** безгрунтóўныя плёткі

**unfreeze** [ˌʌnˈfriːz] *v.* **(unfroze, unfrozen) 1.** размарóжваць; размарóжвацца **2.** размарóжваць (*зарплату, цэны*) **3.** знімáць кантрóль з прóдажу абó вытвóрчасці; **unfreeze trade restrictions** знімáць кантрóль з прóдажу

**unfriendly** [ʌnˈfrendli] *adj.* недружалю́бны, нявéтлівы, непрыя́зны; **be unfriendly to/towards smb.** стáвіцца да кагó-н. недружалю́бна

**unfulfilled** [ˌʌnfʊlˈfɪld] *adj.* няздзéйснены, нявы́кананы; *Our hopes remained unfulfilled.* Нашы надзеі не здзейсніліся.

**unfurl** [ˌʌnˈfɜːl] *v.* **1.** развіна́ць, разго́ртваць (*штандар*); распуска́ць (*ветразі*) **2.** распуска́цца (*пра кветкі, лісткі і да т.п.*)

**ungainly** [ʌnˈgeɪnli] *adj.* нязгра́бны, няспры́тны, нехлямя́жы

**ungovernable** [ʌnˈgʌvənəbl] *adj. fml* непаслухмя́ны; неўтаймава́ны; **fly into an ungovernable rage** нястры́мана разгне́вацца, раз'ю́шыцца, упа́сці ў гнеў

**ungracious** [ʌnˈgreɪʃəs] *adj. fml* няве́тлівы, непрыя́зны; *It was ungracious of me not to appreciate your help.* Было непрыгожа з майго боку не ацаніць вашу дапамогу.

**ungrammatical** [ˌʌngrəˈmætɪkl] *adj* граматы́чна няпра́вільны; **ungrammatical sentences** няпра́вільна пабудава́ныя ска́зы

**ungrateful** [ʌnˈgreɪtfəl] *adj.* няўдзя́чны; **show oneself ungrateful to smb.** праяві́ць няўдзя́чнасць у адно́сінах да каго́-н.

**unguarded** [ʌnˈgɑːdɪd] *adj.* **1.** недагле́джаны; *Don't leave your luggage unguarded.* Не пакідай багаж без нагляду. **2.** неасцяро́жны; **catch smb. in an unguarded moment** злаві́ць каго́-н. у нечака́ны мо́мант

**unhappily** [ʌnˈhæpɪli] *adv.* **1.** нешчаслі́ва **2.** на няшча́сце; на жаль; на бяду́; *Unhappily, she is not here today.* На жаль, сёння яе тут няма.

**unhappiness** [ʌnˈhæpɪnəs] *n.* няшча́сце

**unhappy** [ʌnˈhæpi] *adj.* **1.** нешчаслі́вы, няшча́сны; **an unhappy smile** су́мная ўсме́шка; **be unhappy about/at smth.** турбава́цца аб чым-н. **2.** *fml* няўда́лы; недарэ́чны; **an unhappy expression** няўда́лы вы́раз; **be unhappy in one's choice of words** няўда́ла падбіра́ць сло́вы

**unhealthy** [ʌnˈhelθi] *adj.* **1.** нездаро́вы, хвараві́ты **2.** шко́дны для здаро́ўя; **an unhealthy diet** шко́дная для здаро́ўя дые́та **3.** нездаро́вы, паталагі́чны (*пра мараль, псіхіку*); **show an unhealthy interest** праяўля́ць нездаро́вы інтарэ́с

**unheard-of** [ʌnˈhɜːdɒv] *adj.* **1.** нечува́ны, бяспры́кладны; **an event unheard-of in history** нечува́ная ў гісто́рыі падзе́я **2.** невядо́мы; **a young unheard-of poet** малады́ і ніко́му не вядо́мы паэ́т

**unhinge** [ʌnˈhɪndʒ] *v.* **1.** здыма́ць дзве́ры з заве́саў **2.** хваля́ваць, засмуча́ць; *His mind is unhinged.* Ён звар'яце́ў.

**unholy** [ʌnˈhəʊli] *adj.* **1.** бязбо́жны, бязбо́жніцкі **2.** *infml* страшэ́нны, жу́дасны; **an unholy row** жу́дасны сканда́л

**unhoped-for** [ʌnˈhəʊptfɔː] *adj.* нечака́ны, неспадзява́ны (*пра што-н. прыемнае*); *He had an unhoped-for piece of good luck.* Яму нечакана пашанцавала.

**Uniat** [ˈjuːnɪət] *n.* уні́ят; уні́ятка

**UNICEF** [ˈjuːnɪsef] (*скар. ад* **United Nations International Children's Fund**) ЮНІСЕФ, Дзіця́чы фонд ААН

**unicellular** [ˌjuːnɪˈseljələ] *adj. biol.* аднакле́тачны

**unicorn** [ˈjuːnɪkɔːn] *n.* **1.** *myth.* аднаро́г **2. Unicorn** *astron.* Аднаро́г (*сузор'е*)

**unidentified** [ˌʌnaɪˈdentɪfaɪd] *adj.* неапазна́ны, неідэнтыфікава́ны; **an unidentified flying object** неапазна́ны лята́ючы аб'ект

**unification** [ˌjuːnɪfɪˈkeɪʃn] *n.* **1.** аб'ядна́нне **2.** уніфіка́цыя

**uniform¹** [ˈ juːnɪfɔːm] *n.* фо́рма, фо́рменнае адзе́нне, уніфо́рма; **in full uniform** у по́ўнай фо́рме; **in dress uniform** у пара́днай фо́рме; *How long was he in uniform?* Колькі ён служыў у войску?

**uniform²** [ˈjuːnɪfɔːm] *adj.* адзі́ны, аднаро́дны, адно́лькавы; **be of (a) uniform length** мець адно́лькавую даўжыню́; **uniform data transfer** *comput.* уніфікава́ная перада́ча да́ных

**uniformed** [ˈ juːnɪfɔːmd] *adj.* апра́нуты ў фо́рму, ва ўніфо́рму; **uniformed staff** персана́л ва ўніфо́рме

**unify** [ˈjuːnɪfaɪ] *v.* **1.** аб'ядно́ўваць; гуртава́ць **2.** уніфікава́ць

**unilateral** [ˌjuːnɪˈlætərəl] *adj.* аднабако́вы (*пра дагавор, дэкларацыю і да т.п.*); **unilateral disarmament** аднабако́вае раззбрае́нне

**unimpeachable** [ˌʌnɪmˈpiːtʃəbl] *adj. fml* бездако́рны, беззага́нны; **unimpeachable honesty** бездако́рная сумле́ннасць

**unimportant** [ˌʌnɪmˈpɔːtənt] *adj.* нява́жны; нязна́чны

**uninformed** [ˌʌnɪnˈfɔːmd] *adj.* **1.** непаінфармава́ны; непаве́дамлены; **be uninformed about smth.** ніčо́га не ве́даць пра што-н. **2.** недасве́дчаны, неабу́чаны

**uninhabited** [ˌʌnɪnˈhæbɪtɪd] *adj.* ненасе́лены, бязлю́дны

**uninhibited** [ˌʌnɪnˈhɪbɪtɪd] *adj.* во́льны, раскава́ны

**uninjured** [ʌnˈɪndʒəd] *adj.* непара́нены; непашко́джаны

**uninspired** [ˌʌnɪnˈspaɪəd] *adj.* ненатхнёны, без запа́лу; **write uninspired verse** піса́ць бана́льныя ве́ршы

**uninspiring** [ˌʌnɪnˈspaɪərɪŋ] *adj.* ненатхня́льны; нецікáвы, ну́дны

**unintelligent** [ˌʌnɪnˈtelɪdʒənt] *adj.* неразу́мны

**unintelligible** [ˌʌnɪnˈtelɪdʒəbl] *adj.* неразбо́рлівы, няя́сны, незразуме́лы (*пра почырк*)

**unintended** [ˌʌnɪnˈtendɪd] *adj.* непрадугле́джаны (*пра вынік, эфект і да т.п.*)

**usable** [ˈjuːzəbl] *adj.* прыда́тны для ўжыва́ння; *It's no longer usable.* Гэтым нельга больш карыстацца.

**USAF** [ˌjuːeserˈef] (*скар. ад* **United States Air Force**) ВПС, вае́нна-паве́траныя сі́лы ЗША

**usage** [ˈjuːsɪdʒ] *n.* ужыва́нне, карыста́нне; *It's not a word in common usage.* Гэтае слова ўжываецца рэдка.

**use**[1] [juːs] *n.* **1.** ужыва́нне, карыста́нне, выкарыста́нне; **for general use** для агу́льнага карыста́ння; **be in constant use** карыста́цца ўве́сь час; **find a (new) use for smth** знайсці́ (но́вае) скарыста́нне чаму́-н. **2.** кары́сць; толк, сэнс; вы́гада; *Is there any use?* Ці варта?; **be in use** ужыва́цца, выкарысто́ўвацца; **come into use** пача́ць ужыва́цца; **go out of use** вы́йсці з ужы́тку; **make use of smth.** выкарысто́ўваць што-н. ♦ **be of no use** быць бескары́сным; *It's no use doing it.* Няма сэнсу гэта рабіць; *You're of no use.* Ад цябе няма толку.

**use**[2] [juːz] *v.* **1.** выкарысто́ўваць; карыста́цца; ужыва́ць; *May I use your name as a reference?* Ці магу я спаслацца на вас? **2.** абыхо́дзіцца (*з кім-н.*), ста́віцца (*да каго-н.*) ♦ **use your head** паду́май

**use up** [ˌjuːzˈʌp] *phr.v.* скарыста́ць, патра́ціць

**used**[1] [juːzd] *adj.* стары́, патры́маны; скарыста́ны, ужы́ты; **a used car** стара́я машы́на

**used**[2] [juːst] *adj.* **: get used to smth./doing smth.** прызвыча́іцца, прывы́кнуць да чаго́-н./ рабі́ць што-н.

**used**[3] [juːst] *v.* **: he used to** ён меў звы́чай; *I used to see him often.* Я, бывала, часта з ім бачыўся.

**useful** [ˈjuːsfəl] *adj.* **1.** кары́сны; прыда́тны; **make oneself useful** дапамага́ць чым-н. кары́сным **2.** *infml* паспяхо́вы, кампетэ́нтны; **a useful footballer** здо́льны, спры́тны футбалі́ст

**useless** [ˈjuːsləs] *adj.* бескары́сны; дарэ́мны, ма́рны; *It's useless to argue.* Няма сэнсу спрачацца. *I feel useless at maths.* Я нічога не разумею ў матэматыцы.

**user** [ˈjuːzə] *n.* спажыве́ц; **library users** чытачы́; **a user agent** *comput.* прагра́мны аге́нт

**user-friendly** [ˌjuːzəˈfrendli] *adj.* дасту́пны для звычайнага карыста́льніка (*пра камп'ютар*)

**usher**[1] [ˈʌʃə] *n* **1.** *theatre* білецёр **2.** швейца́р **3.** ша́фер

**usher**[2] [ˈʌʃə] *v.* уво́дзіць, право́дзіць (*у залу, офіс і да т. п.*)

**usher in** [ˌʌʃərˈɪn] *phr.v. fml* аб'яўля́ць, абвяшча́ць; **usher in fresh ideas** абвяшча́ць но́выя ідэ́і

**usherette** [ˌʌʃərˈet] *n. theatre* білецёрка

**USN** [ˌjuːesˈen] (*скар. ад* **United States Navy**) вае́нна-марскі́я сі́лы ЗША

**USSR** [ˌjuːes esˈɑː] *hist.* (*скар. ад* **Union of Soviet Socialist Republics**) СССР, Саю́з Саве́цкіх Сацыялісты́чных Рэспу́блік

**usual** [ˈjuːʒuəl] *adj.* звыча́йны ♦ **as usual** як звыча́йна

**usually** [ˈjuːʒuəli] *adv.* звыча́йна; *I am usually home by 6 o'clock.* Я звычайна дома а шостай гадзіне.

**usurp** [juːˈzɜːp] *v. fml* узурпі́раваць; захапі́ць незако́нна (*уладу*)

**Utd** (*пісьмовае скар. ад* **United**) аб'ядна́ны

**utensils** [juːˈtenslz] *n. pl.* по́суд; начы́нне, прыла́ды; **writing utensils** пісьмо́выя прыла́ды

**uterus** [ˈjuːtərəs] *n.* (*pl.* **uteruses** *or* **uteri**) *anat.* ма́тка

**utilitarian** [ˌjuːtɪlɪˈteəriən] *adj.* **1.** *philos.* утыліта́рны **2.** *fml* практы́чны, прагматы́чны

**utility**[1] [juːˈtɪləti] *n.* **1.** *fml* кары́сць, вы́гада **2.** *pl.* **(public) utilities** камуна́льныя паслу́гі **3.** *comput.* сэ́рвісная прагра́ма

**utility**[2] [juːˈtɪləti] *adj.* дапамо́жны; **a utility actor** акцёр друго́га саста́ву; **utility workers** падсо́бныя рабо́чыя

**utility programme** [juːˈtɪlətiˌprəʊgræm] *n. comput.* прагра́ма-ўтылі́та, сэ́рвісная прагра́ма

**utilize,** *BrE* **-ise** [ˈ juːtɪlaɪz] *v. fml* скарысто́ўваць, утылізава́ць

**utmost**[1] [ˈʌtməʊst] *n.* **: the utmost** са́мае бо́льшае; усё магчы́мае; **enjoy oneself to the utmost** весялі́цца як то́лькі магчы́ма; **try one's utmost** зрабі́ць усё магчы́мае

**utmost**[2] [ˈʌtməʊst] *adj.* кра́йні; надзвыча́йны; **a matter of the utmost importance** спра́ва найвялі́кшай ва́жнасці

**Utopia** [juːˈtəʊpiə] *n.* уто́пія

**Utopian** [juːˈtəʊpiən] *adj.* утапі́чны; **Utopian ideals** утапі́чныя ідэ́алы

**utter**[1] [ˈʌtə] *adj.* по́ўны, абсалю́тны; кра́йні; **utter darkness** абсалю́тная це́мра; **utter rubbish** по́ўная лухта́

**utter**[2] [ˈʌtə] *v. fml* вымаўля́ць; **utter a cry** ускры́кнуць; *He never uttered a word.* Ён не сказаў ні слова.

**utterance** [ˈʌtərəns] *n.* **1.** *fml* вымаўле́нне; выражэ́нне сло́вамі; **give utterance to one's feelings** даць вы́хад пачу́ццям (*у словах*) **3.** выка́званне; **a public utterance** публі́чная зая́ва

**utterly** [ˈʌtəli] *adv.* зусі́м, по́ўнасцю, ца́лкам; надзвы́чай; *I'm utterly exhausted.* Я зусім стаміўся.

**uttermost** [ˈʌtəməʊst] *n., adj.* = **utmost**

**U-turn** [ˈjuːtɜːn] *n.* развaро́т; "**No U-turn**" «Развaро́ту няма́» (*дарожны знак*)

**UV** (*пісьмовае скар. ад* **ultraviolet**) ультрафіяле́тавы
**uvula** [ˈjuːvjələ] *n. anat.* (*pl.* **uvulae**) язычо́к
**uvular** [ˈjuːvjələ] *adj.* **1.** *anat.* язычко́вы **2.** *ling.* увуля́рны (*гук*)
**Uzbek**[1] [ˈʊzbek] *n.* **1.** узбе́к; узбе́чка; **the Uzbeks** узбе́кі **2.** узбе́кская мо́ва
**Uzbek**[2] [ˈʊzbek] *adj.* узбе́кскі

## Vv

**V, v** [viː] *n. 22-я літара англійскага алфавіта*
**v 1.** (*пісьмовае скар. ад* **verb**) дзеясло́ў **2.** *infml* (*пісьмовае скар. ад* **very**) ве́льмі **3.** (*пісьмовае скар. ад* **versus**) су́праць
**vac** [væk] *n. BrE, infml* (*скар. ад* **vacation**) кані́кулы (*ва ўніверсітэце*)
**vacancy** [ˈveɪkənsi] *n.* **1.** незаня́тая паса́да, вака́нсія; **fill a vacancy** заня́ць паса́ду; *There are some vacancies for drivers.* Патрабуюцца вадзіцелі. **2.** незаня́ты пако́й; во́льнае ме́сца (*у гатэлі*) **3.** бязду́мнасць, няўця́мнасць; няўва́жлівасць; безудзе́льнасць; **the vacancy of her expression** абыя́кавасць яе́ вы́разу
**vacant** [ˈveɪkənt] *adj.* **1.** незаня́ты, во́льны; **a vacant appartment** незаня́тая кватэ́ра; **a vacant seat** во́льнае ме́сца (*у тэатры, аўтобусе і да т.п.*) **2.** *fml* вака́нтны; **a vacant post** вака́нтная паса́да **3.** бязду́мны; пусты́; **a vacant face** невыра́зны твар; **a vacant mind** по́ўная адсу́тнасць ду́мак; ту́пасць; **with a vacant stare** бязду́мна; няўця́мна
**vacant possession** [ˌveɪkəntpəˈzeʃn] *n.* памяшка́нне, з яко́га вы́ехалі былы́я гаспадары́, гато́вае для ўе́зду но́вых
**vacantly** [ˈveɪkəntli] *adv.* бязду́мна, няўця́мна; няўва́жліва
**vacate** [vəˈkeɪt] *v. fml* пакіда́ць (*месца, пасаду і да т.п.*); **vacate one's seat** пакі́нуць ме́сца
**vacation**[1] [vəˈkeɪʃn] *n.* **1.** кані́кулы; **the long vacation** *BrE* ле́тнія кані́кулы **2.** *AmE* адпачы́нак, во́дпуск; **on vacation** у во́дпуску; на вака́цыях; **take a vacation** пайсці́ ў адпачы́нак **3.** *fml* звальне́нне, вызвале́нне (*з пасады*)
**vacation**[2] [vəˈkeɪʃn] *v. AmE* право́дзіць адпачы́нак; *He vacationed in Miami.* Ён правёў адпачынак на Маямі.
**vacationer** [vəˈkeɪʃnə] *n. AmE* адпускні́к; той, хто адпачыва́е
**vaccinate** [ˈvæksɪneɪt] *v. med.* вакцынава́ць; **(against)** прышчэ́пліваць (*супраць чаго-н.*)
**vaccination** [ˌvæksɪˈneɪʃn] *n. med.* вакцына́цыя; **(against)** прышчэ́пліванне (*супраць чаго-н.*)
**vaccine** [ˈvæksiːn] *n. med.* вакцы́на
**vacillate** [ˈvæsəleɪt] *v. fml* **(against, over)** хіста́цца, вага́цца; *She's still vacillating what to do.* Яна яшчэ не вырашыла, што рабіць.
**vacillation** [ˌvæsəˈleɪʃn] *n. fml* хіста́нне; вага́нне, нерашу́часць
**vacuity** [vəˈkjuːəti] *n. fml* адсу́тнасць ду́мкі; **fill one's speech with vacuities** прамаўля́ць агу́льныя фра́зы; ≅ перапіва́ць з пусто́га ў паро́жняе
**vacuous** [ˈvækujəs] *adj. fml* пусты́, беззмясто́ўны; **a vacuous stare** бязду́мны по́гляд; **a vacuous laugh** недарэ́чны смех
**vacuum**[1] [ˈvækjuəm] *n.* **1.** ва́куум; беспаве́траная прасто́ра **2.** пустата́, прабе́л, прага́л; **fill the vacuum** запаўня́ць прабе́л ♦ **live in a vacuum** жыць ізалява́на
**vacuum**[2] [ˈvækjuəm] *v. infml* чы́сціць пыласо́сам
**vacuum bottle** [ˈvækjuəmˌbɒtl] *n. AmE* = **vacuum flask**
**vacuum cleaner** [ˈvækjuəmˌkliːnə] *n.* пыласо́с
**vacuum flask** [ˈvækjuəmˌflɑːsk] *n.* тэ́рмас
**vacuum-packed** [ˌvækjuəmˈpækt] *adj.* у герметы́чнай упако́ўцы
**vacuum tube** [ˈvækjuəmˌtjuːb] *n. AmE* электро́нная ля́мпа
**vade-mecum** [ˌvɑːdiˈmeɪkəm] *n. fml, лацін.* кішэ́нны даве́днік
**vagabond**[1] [ˈvægəbɒnd] *n. dated, derog.* бадзя́га, валацу́га
**vagabond**[2] [ˈvægəbɒnd] *adj. dated, derog.* бадзя́жны; **vagabond Gipsies** качавы́я цыганы́; **vagabond thoughts** блука́ючыя ду́мкі
**vagaries** [ˈveɪgəriz] *n. pl. fml* капры́зы, дзіва́цтвы; **vagaries of the English weather** капры́зы англі́йскага надво́р'я
**vagina** [vəˈdʒaɪnə] *n. anat.* по́хва
**vagrancy** [ˈveɪgrənsi] *n. law* бадзя́жніцтва, валацу́жніцтва; *He was arrested for vagrancy.* Яго арыштавалі за бадзяжніцтва.
**vagrant**[1] [ˈveɪgrənt] *n. fml or law* бадзя́га, валацу́га
**vagrant**[2] [ˈveɪgrənt] *adj. fml or law* бадзя́жны, вандро́ўны; **vagrant musicians** вандро́ўныя музы́кі; **vagrant boys** беспрыту́льнікі; **lead a vagrant life** ве́сці бадзя́жнае жыццё, вандра́ваць
**vague** [veɪg] *adj.* **1.** ня́ясны; невыра́зны, неакрэ́слены, цьмя́ны; **a vague term** недакла́дны тэ́рмін **2.** нерашу́чы, няўпэ́ўнены; **be vague in/about one's plans** быць няўпэ́ўненым у сваі́х пла́нах **3.** рассе́яны, няўва́жлівы; адсу́тны (*позірк*)
**vaguely** [ˈveɪgli] *adv.* **1.** невыра́зна; цьмя́на; прыблі́зна; *There was something vaguely familiar*

*about him.* У ім было нешта няўлоўна знаёмае. **2.** рассе́яна, няўва́жліва

**vain** [veɪn] *adj.* **1.** самаўлюбёны, славалюбі́вы; ганары́сты, пыхлі́вы; **as vain as a peacock** надзьму́ты як інды́к **2.** дарэ́мны, ма́рны; **vain hopes** надзе́і, які́я не спра́ўдзіліся ♦ **in vain** дарма́, дарэ́мна, ма́рна; **take smb.'s name in vain** спекуліява́ць чы́м-н. і́мем

**vainly** [ˈveɪnli] *adv.* **1.** дарма́, дарэ́мна, ма́рна **2.** пыхлі́ва, ганары́ста

**valance** [ˈvæləns] *n.* **1.** падзо́р (*у пасцельнай бялізне*) **2.** фальбо́на; фіра́нка (*у зборкі*)

**vale** [veɪl] *n. dated or lit.* дол, далі́на; **the Vale of the White House** газо́н каля́ Бе́лага до́ма (*ЗША*); **the vale of tears** ме́сца паку́т (*метафара зямнога жыцця*)

**valediction** [ˌvælɪˈdɪkʃn] *n. fml* развіта́нне; развіта́льнае сло́ва; **bow in valediction** кла́няцца на развіта́нне

**valedictorian** [ˌvælɪdɪkˈtɔːriən] *n. AmE, fml* выпускні́к-выда́тнік, які́ выступа́е з развіта́льнаю прамо́ваю

**valedictory** [ˌvælɪˈdɪktəri] *adj. fml* развіта́льны; **a valedictory speech** развіта́льная прамо́ва

**valency** [ˈveɪlənsi] *n. phys., chem., ling.* вале́нтнасць

**valentine** [ˈvæləntaɪn] *n.* **1.** каха́ная або́ каха́ны, які́м пасыла́ецца любо́ўны ліст 14 лю́тага **2.** ліст або́ паштоўка з прызна́ннем у каха́нні, які́я пасыла́юцца ананімна 14 лю́тага; **St. Valentine's Day** Дзень Свято́га Валянці́на (*14 лютага*), калі́ закаха́ныя пасыла́юць лісты́ або́ паштоўкі

**valerian** [vəˈlɪriən] *n.* **1.** *bot.* валяр'я́н; валяр'я́нка **2.** валяр'я́навыя ка́плі

**valet¹** [ˈvæleɪ, ˈvælɪt] *n.* **1.** слуга́, лаке́й, камерды́нер **2.** рабо́тнік гатэ́ля

**valet²** [ˈvælɪt] *v.* **1.** служы́ць камерды́нерам **2.** абслуго́ўваць пастая́льцаў гасці́ніцы (*прасаваць, чысціць і да т.п.*)

**valiant** [ˈvæliənt] *adj. lit.* до́блесны, хра́бры (*пра чалавека*); гераі́чны (*пра ўчынак*); **valiant attempts to do smth.** гераі́чныя намага́нні зрабі́ць што-н.

**valid** [ˈvælɪd] *adj.* **1.** сапра́ўдны; які́ ма́е зако́нную сі́лу (*пра дакумент, умову і да т.п.*); **make valid** надава́ць зако́нную сі́лу **2.** ва́жкі; пераканаўчы, абгрунтава́ны (*доказ, падстава і да т.п.*); **a valid reason** ва́жкая прычы́на; **a valid argument** пераканаўчы аргуме́нт; **valid criticism** сур'ёзная кры́тыка

**validate** [ˈvælɪdeɪt] *v. fml* **1.** надава́ць зако́нную сі́лу; **validate a passport** легалізава́ць па́шпарт **2.** падмацо́ўваць; пацвярджа́ць; **validate a theory** падмацо́ўваць тэо́рыю (*фактамі*)

**validity** [vəˈlɪdəti] *n.* **(of) 1.** слу́шнасць, абгрунтава́насць; **the validity of the argument** слу́шнасць аргуме́нта **2.** *law* сапра́ўднасць; зако́ннасць, юрыды́чная сі́ла; тэ́рмін дзе́йнасці

**valley** [ˈvæli] *n.* далі́на; лагчы́на; нізі́на; **a glacial valley** ледавіко́вая лагчы́на

**valor** [ˈvælə] *AmE* = **valour**

**valour** [ˈvælə] *n. fml* до́блесць, му́жнасць

**valuable** [ˈvæljuəbl] *adj.* **1.** дарагі́, каштоўны; **a valuable diamond** дарагі́ дыяме́нт **2.** каштоўны, цэ́нны; **valuable advice** кары́сная пара́да; **a valuable discovery** ва́жнае адкрыццё

**valuables** [ˈvæljuəblz] *n pl.* каштоўнасці

**valuation** [ˌvæljuˈeɪʃn] *n.* ацэ́нка; ацэ́ньванне, вызначэ́нне каштоўнасці; **an assessed valuation** ацэ́начная ва́ртасць; **a customs valuation** мы́тная ацэ́нка; **make/set/draw up a valuation of smth.** ацэ́ньваць што-н. ♦ **take a person at his own valuation** ста́віцца да каго́-н. некрыты́чна, ве́рыць каму́-н. на сло́ва

**value¹** [ˈvæljuː] *n.* **1.** ва́ртасць, кошт, цана́; **market value** ры́начная, курсава́я ва́ртасць; **drop/fall/go down in value** тра́ціць ва́ртасць **2.** каштоўнасць, ва́жнасць; **set/put/place a high value on smth.** цані́ць што-н. высо́ка; надава́ць вялі́кае значэ́нне чаму́-н.; **know the value of time** цані́ць свой час; **be of great value** мець вялі́кую каштоўнасць; быць ве́льмі каштоўным **3.** *pl.* **values** каштоўнасці (*маральныя, мастацкія і да т.п.*); **a sense of values** мара́льныя крытэ́рыі; **human values** агульначалаве́чыя каштоўнасці **4.** *math.* велічыня́ **5.** *mus.* працяглгасць но́ты, рытмі́чная ва́ртасць **6.** *ling.* сэнс, значэ́нне **7.** валёр (*жывапіс*)

**value²** [ˈvæljuː] *v.* **1.** цані́ць, даражы́ць, шанава́ць; **value truth above all** цані́ць пра́ўду даражэ́й за ўсё **2. (at)** ацэ́ньваць, дава́ць ацэ́нку (*у грашовым выражэнні*)

**value added tax** [ˌvæljuːˈædɪdˌtæks] *n.* пада́так на прыба́вачную ва́ртасць

**valueless** [ˈvæljuːləs] *adj. fml* няцэ́нны; нява́рты; непатрэ́бны, бескары́сны

**valuer** [ˈvæljuːə] *n.* ацэ́ншчык; экспе́рт

**value judgement** [ˈvæljuːˌdʒʌdʒmənt] *n.* суб'екты́ўная ацэ́нка (*чаго-н., каго-н.*)

**valve** [vælv] *n.* **1.** *tech.* ве́нтыль; залатні́к; кла́пан; **a relief/safety value** засцерага́льны кла́пан **2.** *electr.* электро́нная ля́мпа **3.** *anat.* кла́пан (*сэрца*)

**vamp** [væmp] *n. dated, derog.* жанчы́на-вамп, ракава́я жанчы́на; сірэ́на, спаку́сніца

**vampire** [ˈvæmpaɪə] *n.* вампі́р, крывасмо́к

**vampire bat** [ˈvæmpaɪəˌbæt] *n. zool.* кажа́н-вампі́р

**van**[1] [væn] *n.* **1.** фургóн; **a delivery van** фургóн для дастáўкі прадýктаў **2.** *BrE* службóвы вагóн; **a goods van** тавáрны вагóн; **the guard's van** вагóн начáльніка цягнікá; **the luggage van** багáжны вагóн

**van**[2] [væn] *n.* (*скар. ад* **vanguard**) авангáрд ♦ **be in/lead the van** *BrE, infml* узначáльваць, быць у авангáрдзе

**vandal** [ˈvændl] *n.* **1.** вáрвар, вандáл **2.** *AmE* хулігáн, грамíла

**vandalism** [ˈvændəlɪzəm] *n.* вандалíзм

**vandalize,** *BrE* **-ise** [ˈvændəlaɪz] *v.* знішчáць, псавáць (*зламысна або бяздумна*)

**vane** [veɪn] *n.* **1.** флю́гер (*на даху*) **2.** лóпасць (*вентылятара, турбіны і да т.п.*); крылó (*ветрака*)

**vanguard** [ˈvæŋɡɑːd] *n.* авангáрд; **be in the vanguard (of)** быць у авангáрдзе (*навуковых даследаванняў, грамадскага руху і да т.п.*)

**vanilla** [vəˈnɪlə] *n.* **1.** *bot.* ванíль **2.** ванілíн; **vanilla ice-cream** ванíлевае марóжанае; *Two vanillas, please!* Дзве порцыі ванілевага марожанага, калі ласка!

**vanish** [ˈvænɪʃ] *v.* **1.** знікáць, прападáць; **vanish without trace** знíкнуць бясслéдна; **vanish in the dark** знíкнуць у цéмры **2.** вымірáць; знікáць; *Many types of animals have vanished completely.* Шмат якія віды жывёл цалкам вымерлі. ♦ **vanish into thin air/the blue** ≅ прапáсці як тумáн, прапáсці як цень на вадзé

**vanishing point** [ˈvænɪʃɪŋˌpɔɪnt] *n.* **1.** *math.* крóпка перасячэ́ння дзвюх паралéльных лíній (*у тэорыі перспектывы*) **2.** крáйні рубéж; **be at the vanishing point** сысцí на ніштó

**vanity** [ˈvænəti] *n.* **1.** славалю́бства, пыхлíвасць; ганары́стасць; **injured vanity** абрáжанае самалю́бства; **do smth. out of vanity** рабíць што-н. з-за пыхлíвасці; **tickle smb.'s vanity** цéшыць чыё-н. самалю́бства **2.** *fml* дарэ́мнасць, мáрнасць; *All is vanity of vanities.* Усё гэта марная мітусня.

**vanity bag** [ˈvænətiˌbæɡ] *n.* сýмка абó чамадáнчык для касмéтыкі

**vanquish** [ˈvæŋkwɪʃ] *v. fml* **(in, at)** перамагáць; адóльваць, асíльваць; **vanquish the enemy** разбíць вóрага; **vanquish a country** пакары́ць краíну; **vanquish a temptation** устая́ць пéрад спакýсаю

**vantage point** [ˈvɑːntɪdʒˌpɔɪnt] *n.* **1.** выгóдная пазíцыя; мéсца, з якóга ўсё віднó **2.** пункт глéджання

**vapid** [ˈvæpɪd] *adj. fml* нýдны, нецікáвы; пусты́, беззмястóўны; **a vapid conversation** пустáя размóва; **a vapid smile** невырáзная ўсмéшка

**vapidity** [vəpɪˈdəti] *n. fml* беззмястóўнасць (*размовы*); нецікáвая заўвáга; банáльнасць

**vapor** [ˈveɪpə] *AmE* = **vapour**

**vaporize,** *BrE* **-ise** [ˈveɪpəraɪz] *v.* выпáрваць, адпáрваць; ператварáцца ў пáру

**vaporization,** *BrE* **-isation** [ˌveɪpəraɪˈzeɪʃn] *n.* адпáрванне, выпáрванне

**vaporous** [ˈveɪpərəs] *adj. fml* імглíсты, затумáнены; **vaporous air** павéтра, насы́чанае вíльгаццю; **vaporous ideas** фантасты́чныя ідэ́і

**vapour** [ˈveɪpə] *n. BrE* **1.** (*вадзяная*) пáра; **a vapour bath** пары́льня, пары́лка **2.** імглá, тумáн; **disappear as vapour** знíкнуць як тумáн **3.** *pl.* **vapours** *dated* меланхóлія

**variability** [ˌveəriəˈbɪləti] *n.* змéнлівасць, няўстóйлівасць

**variable**[1] [ˈveəriəbl] *n.* **1.** *math.* перамéнная (велічыня́) **2.** *astron.* перамéнная зóрка

**variable**[2] [ˈveəriəbl] *adj.* **1.** перамéнлівы, змéнлівы; **variable weather** няўстóйлівае надвóр'е; *His mood is variable.* Яго настрой часта мяняецца. **2.** перамéнны (*пра велічыню, зорку, вецер*)

**variance** [ˈveəriəns] *n. fml* змéна, перамéна; **variances in temperature** хістáнне тэмператýры ♦ **be at variance** не згаджáцца, быць не ў згóдзе; **set people at variance** сéяць нязгóду памíж людзьмí

**variant**[1] [ˈveəriənt] *n.* **(of/on)** варыя́нт; тып, від

**variant**[2] [ˈveəriənt] *adj.* íншы; альтэрнаты́ўны; **variant forms of spelling** арфаграфíчныя варыя́нты

**variation** [ˌveəriˈeɪʃn] *n.* **1. (in/of)** змéна; перамéна; **price variations** вагáнне цэн **2.** *mus.* **(on)** варыя́цыя; **variations on a theme** варыя́цыі на тэ́му

**varicose** [ˈværɪkəʊs] *adj. med.* варыкóзны; **varicose veins** варыкóзнае расшырэ́нне вéн

**varied** [ˈveərid] *adj.* рóзны; разнарóдны; разнастáйны; **varied scenery** перамéнлівы краявíд; **varied in colour** рознакалярóвы

**variegated** [ˈveərɪɡeɪtɪd] *adj.* **1.** рознакалярóвы; стракáты; пярэ́сты; **variegated leaves** паласáтае лíсце **2.** разнастáйны; **a variegated career** кар'éра з чáстаю перамéнаю абстáвін, прáцы і да т.п.

**variegation** [ˌveərɪˈɡeɪʃn] *n.* размалёўванне; размалёванасць, рознакалярóвасць

**variety** [vəˈraɪəti] *n.* **1.** разнастáйнасць, разнарóднасць; **give/lend/add variety to smth.** унóсіць разнастáйнасць у што-н.; **for a variety of reasons** па рóзных прычы́нах **2.** асартымéнт, шэ́раг (*рэчаў*); **a wide variety (of)** вялíкі асартымéнт **3.** гатýнак, сорт; **a variety of apples** сорт я́блыкаў **4.** вар'етэ́, эстрáда

**variety show** [vəˈraɪətiˌʃəʊ] *n.* вар’етэ́; эстра́дны канцэ́рт
**variety store** [vəˈraɪətiˌstɔː] *n. AmE* універса́льны магазі́н
**various** [ˈveəriəs] *adj.* **1.** уся́кі, усяля́кі; ро́зны, разнаста́йны; **various reading** розначыта́нне **2.** мно́гія, шмат які́я; **at various times** шмат разо́ў, неаднаразо́ва
**variously** [ˈveəriəsli] *adv. fml* па-ро́знаму
**varnish**[1] [ˈvɑːnɪʃ] *n.* **1.** лак; глазу́ра **2.** бляск, гля́нец; **a varnish of good manners** бляск мане́р
**varnish**[2] [ˈvɑːnɪʃ] *v.* лакірава́ць, пакрыва́ць ла́кам; **varnish smb.’s reputation** абяля́ць каго́-н.
**varsity** [ˈvɑːsəti] *n. AmE* студэ́нцкая або́ шко́льная спарты́ўная кама́нда
**vary** [ˈveəri] *v.* **1. (in/on)** адро́знівацца, быць разнаста́йным; разыхо́дзіцца (*у поглядах*); *Opinions vary on this point.* Думкі па гэтым пытанні разыходзяцца. **2.** мяня́ць; мяня́цца; *The prices vary with the season.* Цэны залежаць ад сезона. **3.** рабі́ць разнаста́йным; **vary one’s diet** рабі́ць дые́ту разнаста́йнай, разнаста́іць дые́ту
**vascular** [ˈvæskjələ] *adj. anat.* сасу́дзісты; **vascular tissue** сасу́дзістая тка́нка
**vase** [vɑːz] *n.* ва́за
**Vaseline** [ˈvæsəliːn] *n.* вазелі́н
**vassal** [ˈvæsl] *n.* **1.** *hist.* васа́л **2. (to)** зале́жная асо́ба або́ краі́на; **a vassal state** васа́льная дзяржа́ва
**vast** [vɑːst] *adj.* **1.** вялі́кі, вялі́зны, веліза́рны; **a vast desert** бязме́жная пусты́ня **2.** шыро́кі, нязме́рны; **vast interests** шыро́кае ко́ла інтарэ́саў
**vastly** [ˈvɑːstli] *adv.* ве́льмі; празме́рна; у зна́чнай ступе́ні; *You are vastly mistaken.* Вы моцна памыляецеся.
**vastness** [ˈvɑːstnəs] *n.* бяскра́йнасць, неабся́жнасць; прасто́ра
**VAT** [ˌviːeɪˈtiː, væt] *n. BrE* (*скар. ад* **value added tax**) пада́так на прыба́вачную ва́ртасць
**vat** [væt] *n.* каду́шка, кадзь; чан, чон; бак
**Vatican** [ˈvætɪkən] *n.* **: the Vatican** Ватыка́н
**vaudeville** [ˈvɔːdəvɪl] *n.* **1.** *AmE* вар’етэ́ **2.** вадэві́ль
**vault**[1] [vɔːlt] *n.* **1.** скляпе́нне; **the vault of heaven** ку́пал не́ба **2.** падва́л, склеп; грабні́ца; **a family vault** фамі́льны склеп
**vault**[2] [vɔːlt] *n. sport* скачо́к (*апорны*)
**vault**[3] [vɔːlt] *v.* **(over)** скака́ць; пераско́кваць; **vaulting ambition** *fml* бязме́рная амбі́цыя
**vaulting horse** [ˈvɔːltɪŋˌhɔːs] *n. sport* гімнасты́чны конь
**vaunt** [vɔːnt] *v. fml* выхваля́цца; расхва́льваць; **vaunt of one’s success** хвалі́цца сваі́мі по́спехамі
**VB** [ˌviːˈbiː] *comput.* (*скар. ад* **Visual Basic**) мо́ва для напіса́ння пэ́ўных праграм́
**VC** [ˌviːˈsiː] *n.* **1.** (*скар. ад* **Vice-Chairman**) наме́снік старшыні́ **2.** (*скар. ад* **Vice-Chancellor**) рэ́ктар універсітэ́та
**VCR** [ˌviːsiːˈɑː] *n.* (*скар. ад* **video cassette recorder**) відэамагнітафо́н
**VD** [ˌviːˈdiː] *med.* (*скар. ад* **venereal disease**) венеры́чная хваро́ба
**V-Day** [ˌviːˈdeɪ] *n.* Дзень Перамо́гі (*у Другой сусветнай вайне*)
**VDU** [ˌviːdiːˈjuː] *n. BrE* (*скар. ад* **visual display unit**) дыспле́й (*камп’ютара*)
**veal** [viːl] *n.* цяля́ціна; **a fillet of veal** цяля́чая паляндві́ца
**vector** [ˈvektə] *n.* **1.** *math.* ве́ктар **2.** *biol.* перано́счык інфе́кцыі **3.** *mil*. курс, напра́мак
**veer** [vɪə] *v.* **1.** мяня́ць напра́мак; паваро́чваць, рабі́ць віра́ж **2.** рапто́ўна змяні́ць (*думку, паводзіны і да т.п.*); *He veers about like a weathercock.* Ён як флюгер (*не мае цвёрдых перакананняў*).
**veg** [vedʒ] *n. BrE, infml* (*pl*. **veg**) гаро́дніна; **meat and two veg** мя́са і два ві́ды гаро́дніны
**vegan** [ˈviːgən] *n.* стро́гі вегетарыя́нец
**vegetable** [ˈvedʒətəbl] *n.* **1.** раслі́на; **the vegetable kingdom** раслі́нны свет **2.** *pl.* **vegetables** гаро́дніна; **a vegetable garden** агаро́д; **a vegetable dish** сала́тніца; **vegetable oil** але́й; **vegetable soup** суп з гаро́дніны **3.** вя́лы чалаве́к; **lead a vegetable life** гібе́ць, марне́ць
**vegetarian** [ˌvedʒəˈteəriən] *n.* вегетарыя́нец; **a vegetarian diet** вегетарыя́нская дые́та
**vegetate** [ˈvedʒɪteɪt] *v.* гібе́ць, марне́ць; **vegetate in obscurity** марне́ць у невядо́масці
**vegetation** [ˌvedʒɪˈteɪʃn] *n. fml* раслі́ннасць; *There is little vegetation in the desert.* У пустыні мала раслiннасці.
**veggie** [ˈvedʒi] *n.* **1.** *BrE, infml* вегетарыя́нец **2.** *AmE pl.* **veggies** гаро́дніна
**vehemence** [ˈviːəməns] *n.* сі́ла; запа́льчывасць; гара́чнасць; **defend smth. with vehemence** го́рача абараня́ць што-н.
**vehement** [ˈviːəmənt] *adj.* **1.** гара́чы; запа́льчывы; шалёны (*пра чалавека*); **a vehement speaker** тэмпера́ментны прамо́ўца **2.** мо́цны; пары́вісты; гвалто́ўны; **a vehement protest** бу́рны пратэ́ст; **vehement pains** во́стрыя бо́лі
**vehicle** [ˈviːəkl] *n. fml* **1.** тра́нспартны сро́дак (*сухапутны*); **motor vehicles** аўтамабі́лі, аўто́бусы і да т.п. **2. (for)** сро́дак; **a vehicle for propaganda** сро́дак прапага́нды; *Language is the vehicle for conveying ideas.* Мова – сродак перадачы думак.

**vehicular** [vəˈhɪkjələ] *adj. fml* **: a vehicular inspection** тэхні́чны агля́д машы́н; **a vehicular tunnel** тунэ́ль на аўтамабі́льнай даро́зе; **vehicular traffic** аўтамабі́льны рух

**veil¹** [veɪl] *n.* **1.** вуа́ль; пакрыва́ла (*манашкі*); чадра́, паранджа́; **a bridal veil** вясе́льны вэ́люм **2.** засло́на, ма́ска; **a veil of mist** засло́на тума́ну; **draw a veil over smth.** змаўча́ць, прамаўча́ць; **under the veil of smth.** пад вы́глядам, пад ма́ркай чаго́-н. ♦ **take the veil** *dated* стаць мана́шкай

**veil²** [veɪl] *v.* засланя́ць; замаскіро́ўваць; **be veiled in mystery** пакры́ты таямні́цаю; **veil one's contempt** хава́ць пага́рду

**vein** [veɪn] *n.* **1.** *anat.* ве́на; жы́ла **2.** жы́лка, прасло́йка і́ншага ко́леру (*у дрэве, мармуры і да т.п.*) **3.** ры́са; мане́ра; настро́й; тон; стыль; **in the same vein/in a similar vein** прыблі́зна тако́е, не́шта падо́бнае; **in a serious vein** сур'ёзна **4.** схі́льнасць, жы́лка; **a vein of humour** юмарысты́чная жы́лка

**veined** [veɪnd] *adj.* з жы́ламі; з жы́лкамі; **a veined hand** жы́лістая рука́; **veined marble** узо́рысты ма́рмур

**velar** [ˈviːlə] *adj. ling.* веля́рны, заднепаднябе́нны, постпалата́льны (*зычны гук*)

**veldt** [velt] *n.* **: the veldt** вэлд, плато́; стэп (*у Паўднёвай Афрыцы*)

**vellum** [ˈveləm] *n.* **1.** перга́мент, перга́ментная папе́ра **2.** пі́счая папе́ра

**velocity** [vəˈlɒsəti] *n. phys.* ху́ткасць; **the velocity of light** ху́ткасць святла́; **gain/lose velocity** набіра́ць/зніжа́ць ху́ткасць

**velour** [vəˈlʊə] *n.* велю́р; **a velour hat** велю́равы капялю́ш

**velvet¹** [ˈvelvɪt] *n.* аксамі́т; **smooth as velvet** гла́дкі як аксамі́т

**velvet²** [ˈvelvɪt] *adj.* **1.** аксамі́тавы, аксамі́тны; **velvet skin** даліка́тная ску́ра **2.** ці́хі, мя́ккі ♦ **an iron hand/fist in a velvet glove** ≅ на ву́снах – мёд, на сэ́рцы – лёд

**velvety** [ˈvelvəti] *adj.* аксамі́цісты; мя́ккі як аксамі́т; *Her voice had a velvety sound.* Яе голас гучаў вельмі мякка.

**venal** [ˈviːnl] *adj. fml* прада́жны; падку́плены; кары́слівы; **venal practices** кару́пцыя, прада́жнасць

**vend** [vend] *v. fml law* гандлява́ць (*асабліва ўразнос*); прадава́ць (*нерухомую маёмасць*)

**vendetta** [venˈdetə] *n.* **(against)** вендэ́та, кро́ўная по́мста

**vending machine** [ˈvendɪŋməˌʃiːn] *n.* аўтама́т (*для продажу цыгарэт, кавы і да т.п.*)

**vendor** [ˈvendə] *n.* **1.** прадаве́ц (*дробных рэчаў на вуліцы*); **street vendors** ву́лічныя гандляры́; **an ice-cream vendor** прадаве́ц маро́жанага (*на вуліцы*) **2.** *law* прадаве́ц нерухо́май маёмасці

**veneer¹** [vəˈnɪə] *n* **1.** фане́ра **2.** *fml* налёт; во́нкавы глянец, бляск; ма́ска; **with a veneer of self-confidence** з вы́глядам самаўпэ́ўненасці; **a thin veneer of Western civilization** то́нкі налёт захо́дняй цывіліза́цыі

**veneer²** [vəˈnɪə] *v.* **1. (with/in)** абшыва́ць фане́раю; abліцо́ўваць **2.** маскірава́ць, надава́ць вы́гляд

**venerable** [ˈvenərəbl] *adj.* **1.** *fml* шано́ўны, важа́ны **2.** *relig.* прападо́бны; **the Venerable...** Яго́ Прападо́бнасць... (*пра архіепіскапа ў англіканскай царкве*)

**venerate** [ˈvenəreɪt] *v. fml* шанава́ць, ушано́ўваць; паважа́ць; **venerate old traditions** шанава́ць стары́я трады́цыі

**veneration** [ˌvenəˈreɪʃn] *n. fml* паша́на; ушанава́нне; **hold smth. in veneration** шанава́ць што-н.

**venereal disease** [vəˈnɪəriəldɪˌziːz] *n. med.* венеры́чная хваро́ба; **a venereal disease clinic** венералагі́чная клі́ніка

**venetian blind** [veˌniːʃnˈblaɪnd] *n.* пад'ёмнае жалюзі́

**vengeance** [ˈvendʒəns] *n. fml* **(on/upon)** по́мста; **take/inflict/exact/wreak vengeance on smb.** по́мсціць каму́-н. ♦ **with a vengeance** *infml* на ўсю моц; празме́рна; *The rain came down with a vengeance.* Ліло як з вядра.

**vengeful** [ˈvendʒfəl] *adj. fml* по́мслівы; **a vengeful weapon** сро́дак по́мсты

**venial** [ˈviːniəl] *adj. fml* дарава́льны; нязна́чны; **venial offence** нязна́чнае правапарушэ́нне; **a venial sin** дарава́льны грэх

**venison** [ˈvenɪsn] *n.* але́ніна

**venom** [ˈvenəm] *n.* **1.** яд **2.** *fml* злосць; няна́вісць; *There was real venom in her voice.* У яе голасе адчувалася сапраўдная злосць.

**venomous** [ˈvenəməs] *adj.* **1.** ядаві́ты (*пра расліны, жывёлы і да т.п.*) **2.** *fml* зласлі́вы, злы; ядаві́ты; з'е́длівы; **a venomous look** зласлі́вы по́зірк; **venomous criticism** з'е́длівая кры́тыка

**venous** [ˈviːnəs] *adj.* **1.** *anat.* вяно́зны; **venous blood** вяно́зная кроў **2.** *bot.* жылкава́ты (*пра лісце*)

**vent¹** [vent] *n.* разрэ́з, шлі́ца (*на вопратцы*)

**vent²** [vent] *n.* **1.** адту́ліна; душні́к; **an air vent** паве́траны кла́пан **2.** вы́хад ♦ **give vent to one's feelings** дава́ць во́лю сваі́м пачу́ццям; **give vent to one's anger** вылів́аць свой гнеў

**vent**[3] [vent] *v. fml* дава́ць во́лю (*пачуццям*); **vent one's ill-humour on smb.** спаганя́ць свой ке́пскі настро́й на кім-н.

**ventilate** [ˈventɪleɪt] *v.* **1.** праве́трываць, вентылі́раваць; **a well-ventilated kitchen** ку́хня, яка́я до́бра праве́трываецца **2.** *fml* абмяркоўваць; **ventilate certain points** удакладня́ць некато́рыя мо́манты

**ventilation** [ˌventɪˈleɪʃn] *n.* вентыля́цыя, праве́трыванне (*памяшкання*); **a ventilation system** сісту́ма вентыля́цыі, устро́йства для вентыля́цыі

**ventilator** [ˈventɪleɪtə] *n.* вентыля́тар

**ventral** [ˈventrəl] *adj. anat., zool.* брушны́, вентра́льны; **ventral fins** брушны́я плаўнікі́

**ventricle** [ˈventrɪkl] *n. anat.* жалу́дачак (*сэрца*)

**ventriloquism** [venˈtrɪləkwɪzəm] *n.* чэрававяшча́нне

**venture**[1] [ˈventʃə] *n.* **1.** ры́зыка; сме́лая або́ рызыко́ўная спра́ва **2.** спра́ва; пачына́нне; фі́рма; **a joint venture** суме́снае прадпрые́мства ♦ **at a venture** *fml* наўга́д, наўздага́д; **run the venture** рызыкава́ць

**venture**[2] [ˈventʃə] *v.* **1.** рызыкава́ць; ста́віць на ка́рту; **venture one's life** рызыкава́ць сваі́м жыццём **2. (on/upon)** адва́жыцца на (*што-н.*); **venture at smth.** паспрабава́ць зрабі́ць што-н. ♦ **nothing ventured nothing gained** ≅ адва́жнаму і Бог у по́мач

**venture capital** [ˈventʃəˌkæpɪtl] *n.* пазы́ка для заснава́ння но́вага прадпрые́мства

**venturesome** [ˈventʃəsəm] *adj. fml* адва́жны, хра́бры; рызыко́ўны; **a venturesome crossing** небяспе́чны перахо́д

**venue** [ˈvenjuː] *n.* ме́сца сустрэ́чы (*для правядзення перамоў, спаборніцтваў і да т.п.*); **change the venue** змяні́ць ме́сца сустрэ́чы

**Venus** [ˈviːnəs] *n. astron.* Вене́ра (*планета*)

**veracity** [vəˈræsəti] *n. fml* праўдзі́васць; дакла́днасць; пра́ўда; **a man of perfect veracity** бездако́рна праўдзі́вы чалаве́к

**veranda(h)** [vəˈrændə] *n.* вера́нда, балко́н пе́ршага паве́рха; **on the veranda** на вера́ндзе

**verb** [vɜːb] *n. ling.* дзеяслóў; **a verb ending** дзеясло́ўны канча́так

**verbal** [ˈvɜːbl] *adj.* **1.** сло́ўны; ву́сны, верба́льны; **a verbal error** лексі́чная памы́лка; **a good verbal memory** до́брая па́мяць на сло́вы **2.** літара́льны; **a verbal translation** літара́льны перакла́д; **verbal accuracy** дакла́дная перада́ча ко́жнага сло́ва **3.** *ling.* дзеясло́ўны; **a verbal auxiliary** дапамо́жны дзеясло́ў

**verbalize,** *BrE* **-ise** [ˈvɜːbəlaɪz] *v. fml* выража́ць сло́вамі; **verbalize an idea** фармулява́ць ду́мку

**verbally** [ˈvɜːbəli] *adv.* ву́сна, на сло́вах; **explain smth. verbally** даць ву́снае тлумачэ́нне чаму́-н.

**verbal noun** [ˈvɜːblˌnaʊn] *n. ling.* дзеясло́ўны назо́ўнік

**verbatim** [vɜːˈbeɪtɪm] *adj.* **1.** літара́льны (*пераклад*) **2.** стэнаграфі́чны; **a verbatim report** стэнагра́ма

**verbena** [vɜːˈbiːnə] *n. bot.* вярбе́на

**verbiage** [ˈvɜːbɪdʒ] *n. fml, derog.* шматсло́ўе; славаблу́дства, пустасло́ўе; **mere verbiage** пусты́я сло́вы

**verbose** [vɜːˈbəʊs] *adj. fml* шматсло́ўны (*стыль, прамова і да т.п.*); **a verbose speaker** шматсло́ўны прамо́ўца

**verdant** [ˈvɜːdnt] *adj. lit.* зялёны; **a verdant field** рунь; **be verdant** зеляне́ць, руне́ць (*пра азімыя*)

**verdict** [ˈvɜːdɪkt] *n.* **1.** *law* верды́кт, рашэ́нне прыся́жных; **bring in a verdict of guilty/not guilty** прызна́ць вінава́тым/невінава́тым **2. (on)** ду́мка, меркава́нне; вы́вад, высно́ва, заключэ́нне; **the popular verdict** грама́дская ду́мка

**verdure** [ˈvɜːdjə] *n. fml* зе́лень, зялёны ко́лер

**verge**[1] [vɜːdʒ] *n.* край, бе́раг, мяжа́; **a grass verge** травяны́ бардзю́р; **the verge of the forest** узле́ссе, узле́сак ♦ **on the verge of smth.** на кра́і, на мяжы́ чаго́-н.; *She was on the verge of tears.* Яна ледзь не расплакалася.

**verge**[2] [vɜːdʒ] *v.* **(on/upon)** зблiжа́цца; межава́цца; **dark grey verging on black** ама́ль чо́рны ко́лер; *It verges on madness.* Гэта блізка да вар'яцтва.

**verger** [ˈvɜːdʒə] *n.* **1.** царко́ўны слу́жка **2.** но́счык жазла́ (*у працэсіях*)

**verification** [ˌverɪfɪˈkeɪʃn] *n.* **1.** кантро́ль, праве́рка; верыфіка́цыя; **the verification of scientific laws** праве́рка навуко́вых зако́наў **2.** пацвярджэ́нне, до́каз

**verify** [ˈverɪfaɪ] *v.* **1.** правяра́ць, кантралява́ць; **verify details** удакладня́ць дэта́лі; **verify figures** правяра́ць лі́чбы **2.** пацвярджа́ць; дака́зваць; *The prediction of bad weather was verified.* Прагноз кепскага надвор'я спраўдзіўся.

**verisimilitude** [ˌverɪsɪˈmɪlɪtjuːd] *n. fml* верагóднасць; праўдападо́бнасць; **beyond the bounds of verisimilitude** ца́лкам неверагóдны

**veritable** [ˈverɪtəbl] *adj. fml* сапра́ўдны; **a veritable disaster** сапра́ўднае лі́ха

**verity** [ˈverəti] *n. fml* пра́ўда; праўдзі́васць; рэ́альнасць; **the eternal verities** ве́чныя і́сціны; **verity and falsity** пра́ўда і няпра́ўда

**vermicelli** [ˌvɜːmɪˈtʃeli] *n.* вермішэ́ль

**vermillion** [vəˈmɪliən] *adj.* я́рка-чырво́ны, пунцо́вы, барво́вы, барвянцо́вы
**vermin** [ˈvɜːmɪn] *n. pl.* **1.** шко́днікі, шко́дныя жывёлы; драпе́жнікі **2.** паразі́ты **3.** гультаі́, ло́дары
**vermouth** [ˈvɜːməθ] *n.* ве́рмут
**vernacular** [vəˈnækjələ] *adj.* нацыяна́льны, ро́дны (*пра мову*) ; **the vernacular names for flowers** наро́дныя на́звы кве́так; **vernacular Arabic** размо́ўная ара́бская мо́ва
**vernal** [ˈvɜːnl] *adj. fml or lit.* веснавы́, вясно́вы, вясе́нні; **a vernal season** вясна́; **the vernal equinox** вясно́вае раўнадзе́нства (*22 сакавіка*)
**veronica** [vəˈrɒnɪkə] *n. bot.* крыні́чнік
**verruca** [vəˈruːkə] *n. BrE* (*pl.* **verrucas** *or* **verrucae)** баро́даўка
**versatile** [ˈvɜːsətaɪl] *adj.* **1.** разнабако́вы (*талент*); **a versatile actor** акцёр без амплуа́ **2.** універса́льны (*інструмент*)
**verse** [vɜːs] *n.* **1.** вершава́ны радо́к, верш; паме́р, фо́рма ве́рша **2.** страфа́; **a poem of five verses** пяцістро́фны верш **3.** пае́зія; ве́ршы; **blank verse** бе́лы верш; **in verse and prose** ве́ршам і про́зай; **read verse** дэкламава́ць
**versed** [vɜːst] *adj.* **(in)** во́пытны; **be versed in the dialects** ве́даць дыяле́кты
**versification** [ˌvɜːsɪfɪˈkeɪʃn] *n. fml* **1.** вершаскладэ́нне; версіфіка́цыя; прасо́дыя **2.** вершава́ная фо́рма (*чаго-н.*)
**version** [ˈvɜːʃn] *n.* **1.** варыя́нт, мадыфіка́цыя; **an old/first/later version (of)** стары́/пе́ршы/апо́шні варыя́нт (*чаго-н.*) **2.** ве́рсія, інтэрпрэта́цыя; **according to his version** паво́дле яго́ слоў **3.** варыя́нт (*тэксту*); **the original version** арыгіна́л; **a revised version** но́вая рэда́кцыя; **a screen version** экраніза́цыя; **a stage version** інсцэніро́ўка; **a movie version of the novel** фільм паво́дле рама́на; **the English version of the Bible** Бі́блія на англі́йскай мо́ве
**verso** [ˈvɜːsəʊ] *n.* (*pl.* **-os**) ле́вая старо́нка разго́рнутай кні́гі; цо́тная старо́нка
**versus** [ˈvɜːsəs] *prep.* **1.** су́праць **2.** у параўна́нні з; у адро́зненне ад; **man-made fibres versus natural fibres** шту́чнае валакно́ ў параўна́нні з натура́льным
**vertebra** [ˈvɜːtɪbrə] *n. anat.* (*pl.* **vertebrae**) пазвано́к
**vertebrate[1]** [ˈvɜːtɪbrət] *n. biol.* пазвано́чны; **the vertebrates** пазвано́чныя (*клас жывёл*)
**vertebrate[2]** [ˈvɜːtɪbrət] *adj.* пазвано́чны (*пра жывёл, птушак і да т.п.*)
**vertex** [ˈvɜːteks] *n.* (*pl.* **vertices** *or* **vertexes**) **1.** *math.* вяршы́ня (*конуса*) **2.** верхаві́на, пік; **on the vertex of the hill** на вяршы́ні ўзго́рка **3.** *astron.* зені́т
**vertical** [ˈvɜːtɪkl] *adj.* вертыка́льны; **a vertical line** вертыка́льная лі́нія; **vertical cliffs** стро́мкія ска́лы; **vertical handwriting** прамы́ по́чырк
**vertical tab** [ˌvɜːtɪklˈtæb] *n. comput.* вертыка́льная табуля́цыя
**vertices** [ˈvɜːtɪsiːz] *n. pl.* → **vertex**
**vertigo** [ˈvɜːtɪgəʊ] *n. лацін.* галавакружэ́нне; **suffer from vertigo** паку́таваць ад галавакружэ́ння
**verve** [vɜːv] *n. fml* выра́знасць, я́ркасць (*выканання, апісання і да т.п.*); **do smth. with verve** рабі́ць што-н. з энтузія́змам; *The performance lacked verve.* Спектакль прайшоў без уздыму.
**very[1]** [ˈveri] *adj.* **1.** той са́мы; менаві́та, якра́з той; **at that very moment** у той са́мы мо́мант; **the very minute** менаві́та цяпе́р; **the very thing** то́е, што трэ́ба **2.** са́мы; **from the very beginning** з са́мага пача́тку **3.** (*ужываецца для падкрэслівання*) сам па сабе́, на́ват; **the very idea of travelling** на́ват ду́мка аб падаро́жжы; **the very truth** чы́стая пра́ўда
**very[2]** [ˈveri] *adv.* **1.** ве́льмі, на́дта, ду́жа; **at the very latest** найпазне́й; **very well** до́бра (*згода*); *I like it very much.* Мне гэта вельмі падабаецца; *I feel very much better.* Я адчуваю сябе значна лепш. **2.** абсалю́тна, безумо́ўна; са́мы; *I did the very best I could.* Я зрабіў усё, што мог. **3.** менаві́та, якра́з; **in the very same words** якра́з ты́мі сло́вамі; **very much the other way** якра́з наадваро́т **4.** (*пасля адмоўя*) зусі́м не, нязна́чна; даво́лі, до́сыць; **not very well** няважна; **not very rich** небага́ты
**vespers** [ˈvespəz] *n. pl. eccl.* вячэ́рня, вячэ́рняя імша́
**vessel** [ˈvesl] *n.* **1.** *fml* су́дна, карабе́ль; **nuclear-powered vessels** атамахо́ды **2.** *fml* пасу́дзіна, сасу́д; **a measuring vessel** мензу́рка **3.** *anat.* сасу́д; **blood vessels** крывяно́сныя сасу́ды
**vest[1]** [vest] *n. fml* **1.** *BrE* спо́дняя кашу́ля; **a sleeveless vest** ма́йка **2.** *AmE* каміза́лька **3.** бронекамізэ́лька
**vest[2]** [vest] *v.* **1.** *fml* **(in, with)** ускладá́ць (*абавязкі*), дава́ць (*права*); **vest smb. with authority** надзяля́ць каго́-н. ула́даю **2.** *eccl.* адзява́ць (*рызу*)
**vested interests** [ˌvestɪdˈɪntrəsts] *n. pl.* **1.** замацава́ныя зако́нам маёмасныя правы́ **2.** зацíка́ўленыя ко́лы; карпара́цыі, манапо́ліі; **have a vested interest in smth.** мець абгрунтава́ны інтарэ́с да чаго́-н.

**vestibule** [ˈvestɪbjuːl] *n.* **1.** *fml* вестыбю́ль; пярэ́днi пако́й; віта́льня **2.** *AmE* та́мбур з кры́тым пераxо́дам (*вагонны*)

**vestige** [ˈvestɪdʒ] *n.* **1.** *anat.* аста́так, рудыме́нт **2.** след, знак; **not a vestige of truth** ані́ кро́плі пра́ўды

**vestment** [ˈvestmənt] *n.* **1.** урачы́стае адзе́нне, убра́нне **2.** *eccl.* ры́за

**vest-pocket** [ˌvestˈpɒkɪt] *adj. AmE* кішэ́нны, мале́нькі; **a vest-pocket dictionary** кішэ́нны сло́ўнік; **a vest-pocket park** мале́нькі гарадскі́ парк

**vestry** [ˈvestri] *n. eccl.* ры́зніца

**vet¹** [vet] *n.* **1.** (*скар. ад* **veterinarian**) ветэрына́р **2.** (*скар. ад* **veteran**) *infml* ветэра́н

**vet²** [vet] *v.* **1.** правяра́ць (*кандыдата на пасаду*) **2.** дасле́даваць, выпрабо́ўваць, ацэ́ньваць; **vet a manuscript** пераглядáць ру́капіс

**veteran** [ˈvetərən] *n.* **1.** ветэра́н, ко́лішні салда́т; **a veteran of the Second World War** удзе́льнік Друго́й сусве́тнай вайны́; **Veterans Day** Дзень ветэра́наў (*у ЗША і Канадзе*) **2.** во́пытны рабо́тнік, ветэра́н пра́цы; **veterans of the law** шматво́пытныя юры́сты

**veteran car** [ˌvetərənˈkɑː] *n.* стары́ аўтамабі́ль (*выпушчаны да 1916 г.*)

**veterinarian** [ˌvetərɪˈneəriən] *n. fml* ветэрына́р, ветэрына́рны ле́кар

**veterinary** [ˈvetrənəri] *adj.* ветэрына́рны; **veterinary medicine** ветэрынары́я; **a veterinary hospital** ветлячэ́бніца

**veterinary surgeon** [ˈvetrənəriˌsɜːdʒn] *n. fml* ветэрына́рны до́ктар, ветура́ч

**veto¹** [ˈviːtəʊ] *n.* **(on)** ве́та; **exercise the power/right of veto** скарыста́ць пра́ва ве́та; **put a veto on smth.** накла́дваць ве́та на што-н.

**veto²** [ˈviːtəʊ] *v.* накла́дваць ве́та; забараня́ць; *Pete's parents vetoed his plan to buy a motorbike.* Бацькі Пітэра забаранілі яму купляць матацыкл.

**vex** [veks] *v. fml or dated* **1.** дакуча́ць, раздражня́ць; *Don't vex the dog!* Не дражні сабаку! **2.** злава́ць, крыўдава́ць; **get vexed at smth.** разззлава́цца на што-н.

**vexation** [vekˈseɪʃn] *n.* **1.** *fml* пры́красць, раздражне́нне **2.** *dated* непрые́мнасць; **life's little vexations** дро́бныя жыццёвыя непрые́мнасці

**vexatious** [vekˈseɪʃəs] *adj. fml* пры́кры, непрые́мны; раздражня́льны; **a vexatious life** жыццё, по́ўнае трыво́г

**VHF** [ˌviːeɪtʃˈef] (*скар. ад* **very high frequency)** ве́льмі высо́кая частата́; **programmes broadcast on VHF** пргра́мы на хва́лях ВВЧ

**via** [ˈvaɪə] *prep.* **1.** праз; **via Oxford** праз О́ксфард; **via Hamburg** з захо́дам у Га́мбург (*пра судна*) **2.** шля́хам, з дапамо́гаю; *I sent a book via my friend.* Я перадаў кнігу з сяброўкай.

**viable** [ˈvaɪəbl] *adj.* практы́чна здзяйсня́льны, ажыццяві́мы; **a viable agreement** жыццяздо́льная дамо́ўленасць; **a viable method** здзяйсня́льны ме́тад

**viaduct** [ˈvaɪdʌkt] *n.* віяду́к; пуцеправо́д

**vibes** [vaɪbz] *n. pl. infml* **1.** інстынкты́ўныя здага́дкі, флюі́ды **2.** вібрафо́н

**vibrant** [ˈvaɪbrənt] *adj. lit.* **1.** жывы́, по́ўны сі́лы і эне́ргіі; **vibrant feelings** жывы́я пачу́цці; **a vibrant city** шу́мны го́рад **2.** дрыжа́чы (*голас*); рэзані́руючы (*гук*)

**vibraphone** [ˈvaɪbrəfəʊn] *n. mus.* вібрафо́н

**vibrate** [vaɪˈbreɪt] *v.* **1.** хіста́цца; гайда́цца; **vibrate in the wind** гайда́цца ад ве́тру **2.** вібры́раваць, дрыжа́ць; **vibrate with joy** млець ад ра́дасці

**vibration** [vaɪˈbreɪʃn] *n.* **1.** вібра́цыя, хіста́льны рух; рэзана́нс **2**. *pl.* **vibrations** *fml* флюі́ды; інстынкты́ўная здага́дка, цьмя́нае ўяўле́нне

**vibrato** [vɪˈbrɑːtəʊ] *n.* (*pl.* **-os**) *mus.* вібра́та

**vibrator** [vaɪˈbreɪtə] *n.* вібра́тар

**vicar** [ˈvɪkə] *n. eccl.* **1.** парафія́льны свята́р; па́стар (*у англіканскай царкве*); **a clerk vicar** дзячо́к; пе́ўчы **2.** віка́рый; **a cardinal vicar** віка́рый Па́пы Ры́мскага; **the Vicar of Christ** наме́снік Хрыста́ (*пра Папу Рымскага*)

**vicarage** [ˈvɪkərɪdʒ] *n. eccl.* **1.** дом святара́ або́ па́стара **2.** паса́да святара́

**vicarious** [vɪˈkeəriəs] *adj.* **1.** чужы́, не свой; **feel vicarious pleasure** перажыва́ць чужу́ю ра́дасць **2.** які́ дзе́йнічае на кары́сць і́ншых; які́ паку́тує за і́ншых; **vicarious punishment** пакара́нне за чужу́ю віну́

**vice¹** [vaɪs] *n.* **1.** зага́на, хі́ба; распу́ста; **a vice ring** крымінáльная гру́па **2.** недахо́п; ке́пская звы́чка; дэфе́кт; **vices of style** стылісты́чныя недахо́пы; *Smoking is his vice.* Яго кепская звычка – курэнне.

**vice²** [vaɪs] *n. tech.* ціскі́

**vice-chancellor** [ˌvaɪsˈtʃɑːnsələ] *n.* **1.** рэ́ктар універсітэ́та (*у Вялікабрытаніі*) **2.** ві́цэ-ка́нцлер

**vice-president** [ˌvaɪsˈprezɪdənt] *n.* **1.** ві́цэ-прэзідэ́нт **2.** *AmE* наме́снік прэзідэ́нта; дырэ́ктар (*кампаніі, банка і да т.п.*)

**viceroy** [ˈvaɪsrɔɪ] *n.* наме́снік караля́, ві́цэ-каро́ль; **viceroy of India** *hist.* ві́цэ-каро́ль І́ндыі

**vice squad** [ˈvaɪsˌskwɒd] *n.* атра́д палі́цыі па барацьбе́ са злачы́нцамі (*наркаманамі, спекулянтамі і да т.п.*)

**vice versa** [ˌvaɪsiˈvɜːsə] *adv. лацін.* наадваро́т; *He calls black white and vice versa.* Ён называе чорнае белым і наадварот.

**vicinity** [vɪˈsɪnəti] *n.* **1.** сусе́дства, блі́зкасць; **in the vicinity (of)** блі́зка, паблі́зу (ад) **2.** *fml* прыблі́зная ко́лькасць; *He is in the vicinity of 50.* Яму недзе так гадоў 50.

**vicious** [ˈvɪʃəs] *adj.* **1.** злы, зло́сны; з'е́длівы (*пра словы*) **2.** распу́сны, зага́нны; **a vicious person** распу́снік **3.** *infml* мо́цны, жу́дасны; **a vicious mood** жахлі́вы настро́й; **a vicious headache** мо́цны галаўны́ боль

**vicious circle** [ˌvɪʃəsˈsɜːkl] *n.* зага́нны круг

**vicissitude** [vɪˈsɪsɪtjuːd] *n. fml* зме́нлівасць; **vicissitudes of life** зме́нлівасць лёсу

**victim** [ˈvɪktɪm] *n.* ахвя́ра; **war victims** ахвя́ры вайны́; **earthquake victims** ахвя́ры землятру́су ♦ **fall victim (to smth.)** стаць ахвя́рай (*чаго-н.*); *He fell victim to her charms.* Ён не ўстаяў перад яе чарамі.

**victimize,** *BrE* **-ise** [ˈvɪktɪmaɪz] *v.* **1.** рабі́ць (сваёй) ахвя́рай **2.** прыгнята́ць; звальня́ць; уціска́ць (*правы*)

**victor** [ˈvɪktə] *n. lit.* перамо́жца

**Victoria Cross** [vikˌtɔːriəˈkrɒs] *n.* Крыж Вікто́рыі (*вышэйшая ваенная ўзнагарода ў Вялікабрытаніі*)

**Victorian** [vɪkˈtɔːriən] *adj.* **1.** віктарыя́нскі (1837–1901); **Victorian values** кашто́ўнасці віктарыя́нскай эпо́хі **2.** старамо́дны; ву́зкі, абмежава́ны; мяшча́нскі (*пра густ*)

**victorious** [vɪkˈtɔːriəs] *adj.* **(in)** перамагано́сны, перамо́жны; **a victorious team** кама́нда-перамо́жца; **come out victorious** перамагчы́

**victory** [ˈvɪktəri] *n.* перамо́га; **gain/win a victory over smb.** перамагчы́, адо́лець каго́-н.; атрыма́ць, заваява́ць перамо́гу; **a victory for common sense** перамо́га разу́мнага сэ́нсу

**victual** [ˈvɪtəl] *v.* забяспе́чваць праду́ктамі харчава́ння; **victual a ship** пасыла́ць на су́дна харчы́

**victuals** [ˈvɪtəlz] *n. pl. dated* харч, праду́кты, праві́зія

**video¹** [ˈvɪdiəʊ] *n.* ві́дэа; **record on video** запі́сваць на ві́дэа

**video²** [ˈvɪdiəʊ] *v.* запі́сваць на ві́дэа

**video camera** [ˈvɪdiəʊˌkæmərə] *n.* відэака́мера

**video cassette** [ˌvɪdiəʊkəˈset] *n.* відэакасе́та

**video cassette recorder** [ˌvɪdiəʊkəˈsetrɪˌkɔːdə] *n.* відэамагнітафо́н

**video game** [ˈvɪdiəʊˌgeɪm] *n.* электро́нная гульня́, відэагульня́

**videophone** [ˈviːdiəʊfəʊn] *n.* відэатэлефо́н

**videotape¹** [ˈviːdiəʊteɪp] *n.* магні́тная сту́жка з за́пісам відарыса і гукаво́га суправаджэ́ння

**videotape²** [ˈviːdiəʊteɪp] *v.* рабі́ць відэаза́піс

**vie** [vaɪ] *v. fml* супе́рнічаць, спабо́рнічаць; **vie for the first place** змага́цца за пе́ршае ме́сца

**Vietnamese¹** [ˌvjetnəˈmiːz] *n.* **1.** в'етна́мец; в'етна́мка; **the Vietnamese** в'етна́мцы **2.** в'етна́мская мо́ва

**Vietnamese²** [ˌvjetnəˈmiːz] *adj.* в'етна́мскі

**view¹** [vjuː] *n.* **1. (on/about)** по́гляд, ду́мка; **hold extreme views** мець проціле́глыя ду́мкі; **take a different view** ду́маць іна́кш; **in my view** на мой по́гляд; **a point of view** пункт гле́джання **2. (of)** ацэ́нка (*фактаў*); **have a clear view** ствары́ць сабе́ я́сны во́браз; **take a favourable view of smth.** стано́ўча ацані́ць што-н.; **take a poor/serious view of smb./smth.** ста́віцца ке́пска/сур'ёзна да каго́-н./чаго́-н. **3.** по́зірк; по́ле зро́ку; **at first view** на пе́ршы по́гляд; **have a good view of smth.** до́бра ба́чыць што-н.; **come into view** з'яўля́цца; **in full view** на вача́х **4.** від, краяві́д; панара́ма; **a room with a view of the sea** пако́й з ві́дам на мо́ра **5.** агля́д; **a private view** верніса́ж; прэм'е́ра; **on view** вы́стаўлены для агля́ду **6.** від, краяві́д; віда́рыс (*малюнак, фатаграфія і да т.п.*); **postcards with views of Scotland** пашто́ўкі з краяві́дамі Шатла́ндыі **7.** наме́р, інтэ́нцыя; **with a view to doing smth.** з наме́рам/надзе́яй зрабі́ць што-н. ♦ **a bird's-eye view** агу́льная перспекты́ва; від зве́рху; агу́льнае, неглыбо́кае ўяўле́нне (*аб чым-н.*); **have smth. in view** мець што-н. на ўва́зе; **in view of smth.** з прычы́ны чаго́-н.; праз што-н.

**view²** [vjuː] *v.* **1.** *fml* агляда́ць, разгляда́ць; **view pictures** разгляда́ць малю́нкі; **view a house and grounds** рабі́ць агля́д до́ма і ўча́стка **2.** разгляда́ць, ацэ́ньваць; **view smth. with enthusiam** ста́віцца да чаго́-н. з энтузія́змам **3.** *fml* глядзе́ць (*кінафільм*)

**viewer** [ˈvjuːə] *n.* **1.** гляда́ч; тэлегляда́ч **2.** прагляда́льны прыбо́р; апты́чны прыбо́р; перыско́п

**viewpoint** [ˈvjuːpɔɪnt] *n.* **1. (on)** пункт по́гляду; меркава́нне; **from a different viewpoint** з і́ншага пу́нкту гле́джання **2.** пункт (*агляду, назірання і да т.п.*)

**vigil** [ˈvɪdʒɪl] *n.* **1.** няспа́нне, нядрэ́мнасць; **keep a vigil** не спаць, не драма́ць **2.** кругласу́тачная дэманстра́цыя пратэ́сту (*каля якога-н. міністэрства*) **3.** *eccl.* усяно́чная; **the Easter vigil** віліко́дная ю́трань

**vigilance** [ˈvɪdʒɪləns] *n.* **1.** пі́льнасць, зо́ркасць **2.** *med.* бяссо́нне, бе́ссань

**vigilant** [ˈvɪdʒɪlənt] *adj. fml* пі́льны; **be vigilant against smth.** пі́льна сачы́ць за чым-н.

**west**[1] [west] *n.* зáхад; **in the west** на зáхадзе; **to the west of** на зáхад ад; **the West** захóднія штáты ЗША

**west**[2] [west] *adj.* захóдні; **a west wind** захóдні вéцер; **the West Country** грáфствы, якíя размяшчáюцца на паўднёвым зáхадзе ад Лóндана

**west**[3] [west] *adv.* **(of)** на зáхад (ад); на зáхадзе (ад); **face west** выглядáць на зáхад (*пра акно*); **due west** прáма на зáхад; *The wind blows west.* Вецер дзьме з захаду.

**westbound** [ˈwestbaʊnd] *adj.* якí накірóўваецца на зáхад; **westbound traffic** трáнспарт захóдняга напрáмку

**West-End** [ˌwestˈend] *n.* **the West-End** Уэ́ст-Энд (*фешэнебельная частка Лондана*)

**West-Ender** [ˌwestˈendə] *n.* жыхáр Уэ́ст-Э́нда

**westerly** [ˈwestəli] *adj.* захóдні; **a westerly wind** захóдні вéцер

**western**[1] [ˈwestən] *n. AmE* вéстэрн, каўбóйскі рамáн, фільм і да т.п.

**western**[2] [ˈwestən] *adj.* захóдні; **the Western Hemisphere** захóдняе паўшáр'е

**westerner** [ˈwestənə] *n.* жыхáр захóдніх раёнаў; захóднік

**westernmost** [ˈwestənməʊst] *adj.* сáмы захóдні; **the westernmost tip of the island** сáмы захóдні канéц вóстрава

**Westminster** [westˈmɪnstə] *n.* Уэстмíнстэр (*раён у цэнтры Лондана*); **Westminster Abbey** Уэстмíнстэрскае абáцтва; **Westminster Palace** Уэстмíнстэрскі палáц

**westward(s)** [ˈwestwəd(z)] *adj., adv.* захóдні; на зáхад; **westward of smth.** на зáхад ад чагó-н.

**wet**[1] [wet] *n.* **1.** вíльгаць, сы́расць **2. : the wet** дажджлíвае надвóр'е; *Come in out of the wet.* Уваходзьце, не стойце пад дажджом. **3.** *BrE, derog.* нікчэ́мны чалавéк

**wet**[2] [wet] *adj.* **1.** мóкры, вільгóтны, сыры́; "**Wet paint**" «Асцярóжна, пафарбавáна» (*надпіс*); **wet with rain** мóкры ад дажджý; **grass wet with dew** рóсная травá; **wringing wet** вéльмі мóкры; хоць выціскáй; *He is dripping wet.* Ён прамок навылёт; **like a wet rag** як мóкрая анýча; **wet through to the skin** прамóклы навылёт **2.** дажджлíвы, сыры́; **the wet season** дажджлíвая парá гóда **3.** рэ́дкі; **wet mud** рэ́дкая гразь ♦ **(still) wet behind the ears** *infml, derog.* ≅ малакó на губáх не абсóхла

**wet**[3] [wet] *v.* **(wet** *or* **wetted)** мачы́ць ♦ **wet one's whistle** *infml, dated* прамачы́ць гóрла; **wet the/one's bed** пакýтаваць на начнóе нетрывáнне мачы́

**wet blanket** [ˌwetˈblæŋkɪt] *n. infml* занýда, нэ́ндза

**wet fish** [ˈwetfɪʃ] *n.* свéжая ры́ба

**wetland** [ˈwetlənd] *n.* мóцна забалóчаная зямля́

**wet nurse** [ˈwetnɜːs] *n.* мáмка, ня́нька, кармíліца

**wet suit** [ˈwetˌs(j)uːt] *n.* касцю́м для падвóднага плáвання

**we've** [wiːv, wiv] *скар. ад* we have

**whack**[1] [wæk] *n. infml* **1.** мóцны ўдар; гук удáру **2. (at)** спрóба; *I had a whack at the problem.* Я спрабаваў вырашыць праблему. **3.** *BrE* дóля; **go whacks** увайсцí ў дóлю (*з кім-н.*)

**whack**[2] [wæk] *v. infml* мóцна біць; разбíць, пабíць (*пра спаборніцтвы*)

**whacking** [ˈwækɪŋ] *adj. BrE, infml* велічэ́зны; **a whacking lie** неверагóдная хлусня́

**whale**[1] [weɪl] *n.* кіт; **a bull whale** кіт-самéц; **a cow whale** сáмка кітá ♦ **have a whale of a time** *infml* бáвіцца, весялíцца; **a whale for work** заўзя́ты працаўнíк; **a whale of a fellow** выдáтны хлóпец

**whale**[2] [weɪl] *v.* палявáць на кітóў, лавíць кітóў

**whalebone** [ˈweɪlbəʊn] *n.* кітóвы вус

**whaler** [ˈweɪlə] *n.* **1.** кіталóўнае сýдна **2.** кіталóў, кітабóй

**whaling** [ˈweɪlɪŋ] *n.* палявáнне на кітóў; кітабóйны прóмысел

**wham**[1] [wæm] *n., interj., infml* удáр; бух (*гук удару*); *Wham! The car hit the wall!* Бух! Машына ўрэзалася ў сцяну!

**wham**[2] [wæm] *v. infml* мóцна біць, ударáць; ударáцца; *The car whammed into the stone.* Машына стукнулася аб камень.

**wharf** [wɔːf] *n.* (*pl.* **wharves** *or* **wharfs**) **1.** верф **2.** прычáл

**what** [wɒt] *pron.* што; якí; *What's your name?* Як вас зваць?; *What are you?* Кім вы працуеце?; *What's the time?* Каторая гадзіна?; *What books do you want?* Якія кніжкі вам патрэбны? ♦ **and what not** *infml* і чагó тóлькі не былó; **what a pity!** як шкадá!; **what for?** наштó?; навóшта?; чамý?; **what if** а што, калí; **what of it?/ so what?** *infml* ну і што з гэ́тага?; **what's what?** *infml* што да чагó?

**what-d'you-call-it** [ˈwɒtdjʊˌkɔːlɪt] *n. infml* як гэ́та там...? (*ужываецца замест імя або назвы, якія цяжка ўспомніць*)

**whatever**[1] [wɒtˈevə] *pron.* **1.** усё, што; любы́; *Eat whatever you like.* Еш, што хочаш. **2.** што б ні, якí б ні; *Keep calm whatever happens.* Будзь спакойным, што б ні здарылася. **3.** што ж (*выражае здзіўленне*); *Whatever is it?* Што ж гэта такое? ♦ **or whatever** абó што-н. падóбнае

**whatever**[2] [wɒtˈevə] *adv.* **:** *There is no doubt whatever*. Няма ніякага сумневу.

**whatnot** [ˈwɒtnɒt] *n. infml* усякая ўсячына; *There is paper, pens, pencils and whatnot on the table.* На стале папера, ручкі, алоўкі і ўсё іншае.
**what's** [wɒts] *скар. ад* what is; what has
**whatsoever** [ˌwɒtsəʊˈevə] *adv.* = **whatever**
**wheat** [wiːt] *n.* пшані́ца; **spring wheat** ярава́я пшані́ца; **winter wheat** азі́мая пшані́ца; **wheat bran** пшані́чнае во́труб'е
**wheatcake** [ˈwiːtkeɪk] *n. AmE* ала́дка, блін
**wheaten** [ˈwiːtn] *adj.* пшані́чны; ко́леру пшані́цы
**wheat grass** [ˈwiːtgrɑːs] *n. bot.* пы́рнік
**wheatmeal** [ˈwiːtmiːl] *n.* пшані́чная мука́ гру́бага памо́лу
**whee** [wiː] *interj.* здо́рава!; ура́!
**wheedle** [ˈwiːdl] *v. derog.* **(out of)** выма́ньваць (*у каго-н.*); падлі́звацца, падлабу́ньвацца; **wheedle smb. into doing smth.** лісліва заахво́ціць каго́-н. зрабі́ць што-н.
**wheel¹** [wiːl] *n.* **1.** ко́ла; **landing wheels** шасі́ (*самалёта*) **2.** руль; штурва́л; **at/behind the wheel** за рулём (*таксама перан.*) ♦ **put a spoke in smb.'s wheel** каму́-н. шо́стку падкіда́ць; ста́віць па́лкі ў ко́лы; **wheels within wheels** склада́ная ўзаемасу́вязь (*інтарэсаў*)
**wheel²** [wiːl] *v.* **1.** каці́ць (*тачку*) **2.** апі́сваць кругі́, кружля́ць; *Seagulls wheeled in the air above.* Чайкі кружыліся ў небе. **3.** е́хаць на веласіпе́дзе ♦ **wheel and deal** *infml* чыні́ць спра́вы; рабі́ць махіна́цыі
**wheel round** [ˌwiːlˈraʊnd] *phr.v.* паваро́чваць; паваро́чвацца круго́м
**wheelbarrow** [ˈwiːlˌbærəʊ] *n.* та́чка
**wheelchair** [ˈwiːltʃeə] *n.* крэ́сла-ката́лка; інвалі́дная каля́ска
**wheeler-dealer** [ˌwiːləˈdiːlə] *n. infml* верхаво́д, заправі́ла; дзяле́ц
**wheelie** [ˈwiːli] *n. infml* язда́ на за́днім ко́ле веласіпе́да або́ матацы́кла (*трук*); **do a wheelie** прае́хацца на за́днім ко́ле
**wheeze¹** [wiːz] *n.* **1.** хрып, сапе́нне **2.** *BrE, infml, dated* жарт; анекдо́т; до́сціп
**wheeze²** [wiːz] *v.* хрыпе́ць; сапці́
**wheezy** [ˈwiːzi] *adj.* хры́плы, хрыпа́ты; з задыха́ю
**whelp¹** [welp] *n. zool.* шчанюк, шчаня́, шчанё
**whelp²** [welp] *v. fml* шчані́цца
**when** [wen] *adv., conj.* калі́; у той час як; **since when?** з яко́й пары́?
**whence** [wens] *adv. dated, fml* адку́ль; *Whence does he come?* Адкуль ён родам?
**whenever¹** [wenˈevə] *adv.* калі́ ж (*выражае здзіўленне*); *Whenever will he arrive?* І калі ж гэта ён прыедзе?
**whenever²** [wenˈevə] *conj.* уся́кі раз як, калі́ б ні; **or whenever** *infml* або́ ў любы́ час; *Come whenever you like.* Прыходзь, калі пажадаеш.
**where** [weə] *adv., conj.* дзе; куды́; *Where do you come from?* Адкуль вы родам?
**whereabouts** [ˈweərəbaʊts] *n.* месцазнахо́джанне; *Do you know his whereabouts?* Ты ведаеш, дзе ён?
**whereas** [ˌweərˈæz] *conj.* а; тады́ як; *She is always ailing, whereas he is never ill.* Яна заўжды хварэе, а ён – здаровы.
**whereby** [weəˈbaɪ] *adv. fml* чым; у адпаве́днасці з чым, на асно́ве чаго́
**wherefore** [ˈweəfɔː] *n., adv.* прычы́на; з яко́е прычы́ны
**wherein** [weərˈɪn] *adv., conj. fml* там, дзе
**whereof** [weərˈɒf] *conj. dated* пра што, пра яко́га
**whereupon** [ˌweərəˈpɒn] *conj. fml* у які́м, пасля́ яко́га
**wherever¹** [weərˈevə] *adv.* дзе, куды́; *Wherever did you get it?* І дзе ж ты гэта набыў?
**wherever²** [weərˈevə] *conj.* дзе б ні, куды́ б ні; *Wherever you go you'll see a lot of people on the beach in summer.* Куды б ты ні паехаў, убачыш многа людзей на пляжы летам.
**wherewithal** [ˈweəwɪðɔːl] *n.* **the wherewithal** неабхо́дныя сро́дкі; гро́шы; *I haven't the wherewithal to continue my journey.* У мяне няма грошай, каб прадоўжыць падарожжа.
**whet** [wet] *v.* **1.** вастры́ць (*нож*) **2.** абвастра́ць (*пачуццё*); **whet one's appetite** выкліка́ць апеты́т
**whether** [ˈweðə] *conj.* ці; або́, альбо́; *Ask him whether he'll come.* Спытайцеся ў яго, ці прыедзе ён; **whether ... or not** так ці іна́кш; ва ўся́кім ра́зе; *Whether you like it or not we must be there.* Хочаш ты ці не, але мы павінны быць там.
**whetstone** [ˈwetstəʊn] *n.* тачы́льны ка́мень, тачы́лка
**whew** [fjuː] *interj.* уф!; ух!; ф'ю! (*выражае здзіўленне, стомленасць і да т.п.*)
**whey** [weɪ] *n.* сыро́ватка
**which** [wɪtʃ] *pron.* като́ры; які́, што; *I can't tell which is which.* Я не магу адрозніць адно ад другога.
**whichever** [wɪtʃˈevə] *pron.* які́ б ні, любы́; *Whichever of these children is yours?* І каторае ж з гэтых дзяцей ваша?
**whiff** [wɪf] *n.* по́дых, паве́ў; дымо́к; сла́бы пах; *He took a few whiffs.* Ён зрабіў некалькі зацяжак.
**while¹** [waɪl] *n.* час, праме́жак ча́су; **for a while** на не́йкі час**; in a little while** ху́тка; **a little/long**

**while ago** нядáўна/даўнó ♦ **once in a while** чáсам, íншы раз; **quite a while** давóлі дóўга; **worth while :** *It isn't worth your while asking him.* Табе не варта нават і пытацца ў яго.

**while**[2] [waɪl] *conj*. **1.** пакýль, у той час як **2.** хацá; **while I admit** хацá я і дапускáю

**while away** [ˌwaɪləˈweɪ] *phr.v.* бáвіць, правóдзіць (*час*)

**whim** [wɪm] *n.* капры́з; дзівáцтва; **whims of fate** капры́зы лёсу

**whimper** [ˈwɪmpə] *v.* хны́каць, скугóліць; ныць; скавытáць (*пра сабаку*)

**whimsical** [ˈwɪmzɪkl] *adj. fml* вы́чварны; капры́зны, наравíсты

**whine** [waɪn] *v.* **1.** скавытáць (*пра сабаку*) **2.** ныць; скугóліць **3.** наракáць, скáрдзіцца

**whinny** [ˈwɪni] *v.* цíха (і)ржáць

**whip**[1] [wɪp] *n.* **1.** бізýн, пýга **2.** парлáменцкі парты́йны арганізáтар, кіраўнíк фрáкцыі **3.** узбíтыя вяршкí, крэм і да т.п.

**whip**[2] [wɪp] *v.* **1.** сцябáць, хвастáць, лупцавáць **2.** узбівáць (*вяршкі, смятану і да т.п.*) **3.** (і)рвáцца, кідáцца

**whip on** [ˌwɪpˈɒn] *phr.v.* падганя́ць

**whip through** [ˌwɪpˈθruː] *phr.v. infml* прабірáцца; *We whipped through customs very quickly.* Мы прайшлі праз мытню вельмі хутка.

**whip up** [ˌwɪpˈʌp] *phr.v.* распáльваць (*пачуццi*); расшавéльваць (*чалавека*)

**whiplash** [ˈwɪplæʃ] *n.* **1.** рамéнь абó вярóўка пýгі; **work under the whiplash** працавáць з-пад пýгі **2.** удáр (*бізуном, пугай*)

**whippersnapper** [ˈwɪpəˌsnæpə] *n. infml, dated* саманадзéйны хлóпец; малакасóс

**whipping boy** [ˈwɪpɪŋbɔɪ] *n.* казёл адпушчэ́ння

**whip-round** [ˈwɪpraʊnd] *n. BrE, infml* збор грóшай; *His mates had a whip-round for him.* Сябры сабралі для яго грошы

**whirl**[1] [wɜːl] *n.* **1.** кручэ́нне, кружэ́нне, вярчэ́нне **2.** віхóр; завіхрэ́нне; вір **3.** галавакружэ́нне; *His brain was in a whirl.* Ён не мог сабрацца з думкамі.

**whirl**[2] [wɜːl] *v.* **1.** вярцéць; вярцéцца **2.** круцíць; круцíцца; *Leaves whirled in the wind.* Лісце кружылася на ветры. **3.** пранóсіцца, імчáцца; калясíць **4.** быць збянтэ́жаным; кружы́цца (*пра галаву*)

**whirlpool** [ˈwɜːlpuːl] *n.* **1.** вір, вадаварóт **2.** джакýзі

**whirlwind** [ˈwɜːlwɪnd] *n.* віхóр, урагáн; **a whirlwind of applause** бýра апладысмéнтаў

**whirr** [wɜː] *v.* **1.** гусцí, гудзéць (*пра насякомых*) **2.** шумéць; пранóсіцца з шýмам (*пра машыну*)

**whisk**[1] [wɪsk] *n.* **1.** вéнічак, мяцёлка **2.** памáхванне (*хвастом*); лёгкі ўзмáх; **in/with a whisk** адны́м мáхам

**whisk**[2] [wɪsk] *v.* **1.** збівáць (*яйкі, смятану і да т.п.*) **2.** змáхваць, змятáць

**whiskers** [ˈwɪskəz] *n. pl. dated or hum.* **1.** бакенбáрды, бáкі **2.** вýсы (*у жывёл*)

**whiskey** [ˈwɪski] *AmE* = **whisky**

**whisky** [ˈwɪski] *n.* вíскі; **whisky and soda** вíскі з сóдавай

**whisper**[1] [ˈwɪspə] *n.* **1.** шэпт; шаптáнне; **speak in a whisper/in whispers** гавары́ць шэ́птам **2.** *pl.* **whispers** чýткі; пóгаласкі; **a whisper of scandal** плёткі **3.** *lit.* шапацéнне; шóрах (*лісця*)

**whisper**[2] [ˈwɪspə] *v.* **1.** шаптáць; шаптáцца; гавары́ць шэ́птам; *He whispered a word in my ear.* Ён шапнуў нейкае слова мне на вуха. **2.** *lit.* шамацéць, шапацéць, шалясцéць (*пра вецер, дрэвы і да т.п.*); *The wind was whispering in the leaves.* Лісце шапацела на ветры.

**whispering campaign** [ˈwɪspərɪŋkəmˌpeɪn] *n.* паклёпніцкая кампáнія

**whistle**[1] [ˈwɪsl] *n.* **1.** свіст; **give/blow a whistle** свíснуць **2.** свістóк; **a penny/tin whistle** свістýлька **3.** *infml* гóрла, глóтка ♦ **as clean/as clear/as dry as a whistle** першаклáсны, выдáтны; **at smb.'s whistle** вáрта тóлькі свíснуць; **not worth a whistle** нічóга не вáрты, не вáрты намагáнняў; **wet one's whistle** *infml* прамачы́ць гóрла, вы́піць

**whistle**[2] [ˈwɪsl] *v.* **1.** свістáць; **whistle a tune** насвíстваць маты́ў; *The wind whistled up the chimney.* Вецер выў у коміне. **2.** свíснуць, падазвáць свісткóм; **whistle for a taxi** свісткóм падазвáць таксí **3.** пранéсціся са свíстам; *A bullet whistled past his head.* Каля галавы прасвістала куля. ♦ **whistle in the dark** падбадзёрваць сябé свíстам у цемнацé; храбры́цца; **whistle for a wind** *infml* ≅ чакáць ля мóра пагóды

**whistle up** [ˌwɪslˈʌp] *phr.v.* падзывáць (*свістам*)

**whistle-blower** [ˈwɪslˌbləʊə] *n.* данóсчык; данóсчыца

**whit** [wɪt] *n. dated* кáпелька, ёта ♦ **not a whit/no whit** нічýць, нікóлькі, анí, ні на ёту; *I don't care a whit.* Мне хоць бы што.

**Whit** [wɪt] *adj. relig.* **: Whit Sunday** Дзень Святóга Дýха, Пяцідзяся́тніца, Сёмуха; **Whit Monday** Дýхаў дзень; **Whit week** ты́дзень пасля́ Сёмухі

**white**[1] [waɪt] *n.* **1.** бялóк (*яйка*) **2.** бялóк (*вока*); **turn up the whites of one's eyes** закацíць вóчы **3.** бéлы кóлер; бéлая фáрба **4.** *pl.* **whites**

бе́лае адзе́нне **5.** бе́лы (*чалавек*); беласку́ры **6.** бе́лы; белагвардзе́ец ♦ **call white black** называ́ць бе́лае чо́рным

**white**[2] [waɪt] *adj.* **1.** бе́лы; **paint white** фарбава́ць у бе́лы ко́лер, бялі́ць; **white rice** шліфава́ны рыс; **white salt** стало́вая соль; **white hands** белару́чка; **white as snow** бе́лы як снег, беласне́жны **2.** бле́дны; **white as ashes/death** бле́дны як смерць; **white as a sheet** бе́лы як палатно́; **white with rage** пабяле́ць ад лю́тасці; **turn white** паблядне́ць, пабяле́ць **3.** сівы́ ♦ **show the white feather** бая́цца, маладу́шнічаць; **a white night** бяссо́нная ноч; **a white elephant** непатрэ́бная рэч; **hoist/show/wave the white flag** здава́цца, капітулява́ць

**whitebait** [ˈwaɪtbeɪt] *n.* малёк, маля́ўка; дро́бная малада́я ры́ба

**white bear** [ˌwaɪtˈbeə] *n. zool.* бе́лы/паля́рны мядзве́дзь

**white cell** [ˈwaɪtˌsel] *n. physiol.* бе́лая крывяна́я кле́тка, лейкацы́т

**white Christmas** [ˌwaɪtˈkrɪsməs] *n.* сне́жныя Каля́ды

**white coffee** [ˌwaɪtˈkɒfi] *n.* ка́ва з малако́м або́ вяршка́мі

**white-collar** [ˌwaɪtˈkɒlə] *n.* **: a white-collar worker** «бе́лы каўне́рык», службо́вец, слу́жачы; **white-collar jobs** канто́рскія паса́ды, «чы́стая» рабо́та

**white-faced** [ˌwaɪtˈfeɪst] *adj.* бле́дны, бледнатва́ры; **white-faced with anger** збяле́лы ад зло́сці

**white flag** [ˌwaɪtˈflæg] *n.* бе́лы сцяг (*сімвал*) ♦ **hoist/show the white flag** здава́цца

**white frost** [ˈwaɪtfrɒst] *n.* шэ́рань, і́ней

**Whitehall** [ˈwaɪthɔːl] *n.* Уайтхо́л (*вуліца ў Лондане, на якой знаходзяцца ўрадавыя ўстановы*); англі́йскі ўра́д

**white hope** [ˌwaɪtˈhəʊp] *n. infml* асо́ба, на по́спех яко́й ма́юцца вялі́кія надзе́і

**white horses** [ˌwaɪtˈhɔːsɪz] *n. pl. BrE* пе́ністыя грабяні́ хваль, бара́нчыкі

**white-hot** [ˌwaɪtˈhɒt] *adj.* **1.** распа́лены да бе́лага; гара́чы **2.** узбу́джаны; даве́дзены да шале́нства

**White House** [ˈwaɪtˌhaʊs] *n.* **the White House** Бе́лы дом (*афіцыйная рэзідэнцыя прэзідэнта ЗША*)

**white lie** [ˌwaɪtˈlaɪ] *n.* няві́нная хлусня́

**white man** [ˈwaɪtmən] *n.* (*pl.* **-men**) беласку́ры чалаве́к

**white meat** [ˌwaɪtˈmiːt] *n.* бе́лае мя́са (*курацiна, цяляціна і да т.п.*)

**whiten** [ˈwaɪtn] *v.* **1.** бялі́ць, адбе́льваць **2.** стаць бе́лым, пабяле́ць

**White Paper** [ˌwaɪtˈpeɪpə] *n.* ура́давы інфармацы́йны дакуме́нт па які́м-н. пыта́нні (*у Вялікабрытаніі*)

**white sauce** [ˌwaɪtˈsɔːs] *n.* бе́лы со́ус (*з масла, мукі і малака*)

**white slave** [ˌwaɪtˈsleɪv] *n.* «бе́лая рабы́ня», прастыту́тка (*асабліва паднявольная*)

**white slavery** [ˌwaɪtˈsleɪvəri] *n.* га́ндаль жанчы́намі; выму́шаная прастыту́цыя

**white tie** [ˌwaɪtˈtaɪ] *n.* бе́лы га́льштук (*фрачны*); **a white-tie dinner** урачы́сты абе́д

**whitewash**[1] [ˈwaɪtwɒʃ] *n.* **1.** бялі́лы **2.** пабе́лка, пабе́л **3.** спро́ба абялі́ць, схава́ць недахо́пы; *The report was simply a whitewash.* Даклад быў проста хлуснёй.

**whitewash**[2] [ˈwaɪtwɒʃ] *v.* бялі́ць; **whitewash smb.** хава́ць чые́-н. недахо́пы; апра́ўдваць каго́-н.

**whither** [ˈwɪðə] *adv. dated or fml* куды́, для чаго́; *Whither goest thou?* Куды ляжыць твой шлях?

**whiting** [ˈwaɪtɪŋ] *n.* мел (*для пабелкі*); бялі́лы; ва́пна

**whitish** [ˈwaɪtɪʃ] *adj.* белава́ты; бяля́вы; **whitish blue** бле́дна-блакі́тны; **whitish green** све́тлазялёны

**Whitsun** [ˈwɪtsn] *n.* Сёмуха і ты́дзень пасля́ яе́; **at Whitsun eve** напярэ́дадні Сёмухі

**Whit Sunday** [ˌwɪtˈsʌndeɪ] *n. BrE* дзень Сёмухі, дзень свято́й Тро́йцы

**Whitsuntide** [ˈwɪtsəntaɪd] *n.* свя́та Сёмухі і Ду́хава дня; ты́дзень пасля́ Сёмухі

**whittle** [ˈwɪtl] *v.* **1.** габлява́ць; **whittle a pencil** завастры́ць ало́вак **2.** памянша́ць; зво́дзіць на нішто́

**whittle away** [ˌwɪtləˈweɪ] *phr.v.* зве́сці на нішто́; **whittle away a fortune** праматаць маёмасць

**whittle down** [ˌwɪtlˈdaʊn] *phr.v.* зрэ́заць, пазраза́ць; **whittle down expenses** зні́зіць расхо́ды, выда́ткі

**whiz(z)**[1] [wɪz] *n.* **1.** свіст (*кулі ў паветры*) **2.** *infml* ма́йстар, зна́ўца

**whiz(z)**[2] [wɪz] *v.* **1.** свіста́ць; прано́сіцца са сві́стам **2.** круці́цца; кружы́цца; *That makes my head whizz.* Ад гэтага ў мяне кружыцца галава.

**whiz(z)-kid** [ˈwɪzkɪd] *n. infml* вундэркі́нд

**who** [huː, hu] *pron.* **1.** хто; які́; *Who is absent?* Хто адсутнічае?; *The man who was here is an artist.* Чалавек, які тут быў, – мастак; *Who on earth is it?* І хто б гэта мог быць?; *Who am I to tell you that?* І хто я такі, каб табе гэта гаварыць? **2.** *infml* каго́, каму́, кім; *Who is the money for?* Для каго гэтыя грошы? ♦ **know/learn who's who** ве́даць/даве́дацца, хто ёсць хто

**whoa** [wəʊ] *interj.* тпру! (*выкрык, якім спыняюць каня*)

**who'd** [hu:d] *скар. ад* who had, who would

**whodun(n)it** [ˌhu:ˈdʌnɪt] *n. infml* дэтэкты́ў (*раман, фільм і да т.п.*)

**whoever** [hu:ˈevə] *pron.* **1.** хто б ні, які́ б ні **2.** хто (*выражае здзіўленне*); *Whoever would believe it?* Хто ж гэтаму паверыў бы?

**whole¹** [həʊl] *n.* цэ́лае; **the whole and the parts** цэ́лае і ча́сткі; **the whole of the year** уве́сь год, цэ́лы год ♦ **as a whole** у цэ́лым; **on the whole** нао́гул, уво́гуле; **in whole** по́ўнасцю, ца́лкам

**whole²** [həʊl] *adj.* **1.** уве́сь, цэ́лы; **the whole day** уве́сь дзень **2.** цэ́лы; непашко́джаны; **whole milk** неразве́дзенае малако́ ♦ **the whole lot (of)** *infml* мно́ства, ку́ча (*чаго-н.*); **go the whole hog** даво́дзіць да канца́; ісці́ на ўсё; **swallow smth. whole** згадзі́цца з чым-н. не ду́маючы; прыня́ць што-н. на ве́ру

**wholefood** [ˈhəʊlfu:d] *n.* натура́льная е́жа; экалагі́чна чы́стыя праду́кты

**wholehearted** [ˌhəʊlˈhɑ:tɪd] *adj.* шчы́ры; **wholehearted repentance** шчы́рае раска́янне; *You have my wholehearted support.* Я цалкам вас падтрымліваю.

**wholemeal** [ˈhəʊlmi:l] *n.* непрасе́яная мука́; мука́ гру́бага памо́лу

**whole number** [ˌhəʊlˈnʌmbə] *n. math.* цэ́лы лік

**wholesale¹** [ˈhəʊlseɪl] *n.* апто́вы га́ндаль; **by wholesale** о́птам

**wholesale²** [ˈhəʊlseɪl] *adj., adv.* апто́вы; о́птам; **wholesale prices** апто́выя цэ́ны

**wholesome** [ˈhəʊlsəm] *adj.* **1.** кары́сны; здаро́вы; **wholesome food** здаро́вая е́жа; **wholesome advice** кары́сная пара́да **2.** мо́цны, по́ўны здаро́ўя; **have a wholesome appearance** мець здаро́вы вы́гляд

**who'll** [hu:l] *скар. ад* who will

**wholly** [ˈhəʊli] *adv. fml* ца́лкам, по́ўнасцю; *I'm not wholly convinced.* Я не зусім перакананы.

**whom** [hu:m] *pron. fml* **1.** каго́, каму́; **with whom** з кім; **about whom** аб кім, пра каго́ **2.** яко́га, яку́ю, які́х; *The girl whom you're talking about is my colleague.* Дзяўчына, пра якую ты гаворыш, мая каляжанка.

**whomever** [ˌhu:mˈevə] *pron. lit.* каго́-не́будзь, хоць каму́

**whomsoever** [ˌhu:msəʊˈevə] = **whomever**

**whoop¹** [wu:p, hu:p] *n.* вы́клік, вы́гук, вы́крык, во́кліч (*выражаюць здзіўленне, радасць і да т.п.*); **whoops of joy** ра́дасныя во́клічы

**whoop²** [wu:p, hu:p] *v.* крыча́ць, выкры́кваць; галёкаць; **whoop for joy** крыча́ць ад ра́дасці ♦ **whoop it up** *infml* заду́маць шу́мную гуля́нку

**whoopee** [wʊˈpi:] *interj.* ух! (*выражае радасць, захапленне*)

**whooping cough** [ˈhu:pɪŋkɒf] *n. med.* ко́клюш, ко́хлік

**whop** [wɒp] *v. infml* **1.** аддуба́сіць, адлупцава́ць; адкалашма́ціць **2.** разбі́ць у пух і прах

**whopper** [ˈwɒpə] *n. infml* **1.** грама́дзіна; страшы́дла; *The fisherman has caught a whopper.* Рыбак злавіў велічэзную рыбіну. **2.** страшэ́нная хлусня́; *She is telling a real whopper.* Яна нахабна хлусіць.

**whopping** [ˈwɒpɪŋ] *adj. infml* агро́мністы; веліза́рны; **a whopping lie** жахлі́вая хлусня́

**whore** [hɔ:] *n. derog.* **1.** прастыту́тка; **play the whore** распу́снічаць **2.** блудні́ца, распу́сніца; **the whore of Babylon** *bibl.* вавіло́нская распу́сніца

**who're** [ˈhu:ə] *скар. ад* who are

**whorl** [wɜ:l] *n.* **1.** віто́к, завіту́шка (*спіралі*) **2.** *bot.* пучо́к лі́сця, кве́так на канцы́ сцябла́

**whortleberry** [ˈwɜ:tlˌberi] *n. bot.* я́гада чарні́цаў

**who's** [hu:z] *скар. ад* who is; who has

**whose** [hu:z] *pron.* чый, чыя́, чыё, чые́; *Whose son are you?* Чый ты сын?

**Who's Who** [ˌhu:zˈhu:] **1.** «Хто ёсць хто» (*кароткі біяграфічны даведнік пра сучасных выбітных дзеячаў*) **2.** **(w.w.)** біяграфічныя звесткі; *He knows who's who.* Ён ведае, хто ёсць хто.

**who've** [hu:v] *скар. ад* who have

**why¹** [waɪ] *n.* **: the whys and the wherefores** прычы́ны і падста́вы; *Every why has a wherefore.* На ўсё ёсць свае прычыны.

**why²** [waɪ] *adv., conj.* чаму́, чаго́; наво́шта; *Why were you late?* Чаму ты спазніўся?; *Why get upset?* Навошта засмучацца?; *That is why he came early.* Вось чаму ён прыйшоў рана. ♦ **why ever** чаму́ ж (*выражае здзіўленне*); *Why ever didn't you tell me?* І чаму ж ты мне не сказаў?; **why not** чаму́ б не; *Why not go now?* Чаму б не пайсці цяпер?

**why³** [waɪ] *interj.* **1.** як!; глянь!; а!; ах! (*выражае здзіўленне*); ***Why, it's you!*** Глянь! Каго́ я бачу! **2.** (ды) ну, няўжо́? (*выражае нецярпенне*); *Why, sure!* Ну, вядома ж!

**wick** [wɪk] *n.* кнот ♦ **get on smb.'s wick** надакуча́ць, назаля́ць каму́-н.

**wicked¹** [ˈwɪkɪd] *n.* **: the wicked** грэ́шнікі; бязбо́жнікі ♦ **(there's) no peace for the wicked** няма́ спако́ю грэ́шнікам

**wicked²** [ˈwɪkɪd] *adj.* **1.** дрэ́нны; злы, ліхі́, грэ́шны; **wicked designs** кава́рныя заду́мы; **wicked**

**climate** цяжкі клімат **2.** небяспечны; шкодны, зламысны; **a wicked blow** удар у спіну; **a wicked sense of humour** зласлівы гумар

**wickedness** [ˈwɪkɪdnəs] *n.* **1.** зласлівасць; кепскі ўчынак **2.** *relig.* грахі; грэшнасць

**wicker** [ˈwɪkə] *n.* хмызняк; лазняк (*для пляцення*); **a wicker chair** плёценае крэсла; **a wicker fence** пляцень

**wickerwork** [ˈwɪkəwɜːk] *n.* пляцёнка (*пра кашы, крэслы*)

**wicket** [ˈwɪkɪt] *n.* **1.** брамка, веснічкі **2.** варотцы (*у крыкеце*) ♦ **operate on a political wicket** весці палітычную гульню

**wicketkeeper** [ˈwɪkɪtˌkiːpə] *n.* ігрок, што стаіць на варотцах (*у крыкеце*)

**wide¹** [waɪd] *n.* **1.** *poet.* прастора, шыр, шырыня **2. the wide** *infml* увесь свет ♦ **broke to the wide** без капейчыны ў кішэні

**wide²** [waɪd] *adj.* **1.** шырокі; **be two feet wide** мець шырыню ў два футы **2.** прасторны; велічэзны, вялізны; **the whole wide world** увесь (белы) свет ♦ **wide of the mark** міма цэлі; **give smb. a wide berth** трымацца наводдаль ад каго-н.

**wide³** [waɪd] *adv.* **1.** шырока; цалкам; *Open the window wide, please!* Адчыні акно насцеж, калі ласка! **2.** далёка; **wide apart** на вялікай адлегласці адзін ад аднаго; **wide of the truth** далёка ад праўды ♦ **with wide open eyes** здзіўлена, са здзіўленнем

**wide-angle lens** [ˌwaɪdæŋlˈlenz] *n. pl.* шырокавугольны аб'ектыў

**wide-awake** [ˌwaɪdəˈweɪk] *adj. infml* пільны; абачлівы, асцярожны; **be wide-awake** быць напагатове

**wide boy** [ˈwaɪdbɔɪ] *n. infml* «круты»

**wide-eyed** [ˌwaɪdˈaɪd] *adj.* **1.** наіўны **2.** моцна здзіўлены або спалоханы

**widely** [ˈwaɪdli] *adv.* **1.** шырока; **widely known** шырокавядомы; *He travelled widely.* Ён шмат ездзіў. **2.** далёка, на вялікай адлегласці; з вялікімі прамежкамі; **widely scattered** раскіданыя далёка адзін ад аднаго **3.** значна, моцна; **differ widely** рэзка разыходзіцца (*у поглядах, думках і да т.п.*)

**widen** [ˈwaɪdn] *v.* **1.** пашыраць; пашырацца **2.** расшыраць; расшырацца; **widen one's knowledge** пашыраць свае веды

**wide-ranging** [ˌwaɪdˈreɪndʒɪŋ] *adj.* шырокі, велічэзны, шырокамаштабны; **wide-ranging studies** шырокія даследаванні

**widespread** [ˈwaɪdspred] *adj.* шырокараспаўсюджаны; шырокараспасцёрты; **a widespread opinion** пераважная думка

**widgeon** [ˈwɪdʒən] *n. zool.* качка-свіязь

**widow¹** [ˈwɪdəʊ] *n.* удава; **become a widow** аўдавець

**widow²** [ˈwɪdəʊ] *v. fml* рабіць удавою; *She was widowed by the war.* Вайна адняла ў яе мужа.

**widower** [ˈwɪdəʊə] *n.* удавец

**widowhood** [ˈwɪdəʊhʊd] *n.* удаўство

**width** [ˈwɪdθ] *n.* шырыня; **20 metres in width** 20 метраў шырынёю; **a width of cloth** полка, столка (*тканіны*)

**wield** [wiːld] *v.* валодаць, мець у руках; **wield an axe** працаваць сякераю; **wield power** трымаць у сваіх руках уладу; **wield the pen** быць пісьменнікам

**wiener** [ˈwiːnə] *n. AmE* сасіска

**wife** [waɪf] *n.* (*pl.* **wives**) жонка; **take a wife** жаніцца; **take to wife** узяць за жонку ♦ **all the world and his wife** *joc.* увесь свет, усе

**wig** [wɪg] *n.* **1.** парык **2.** *AmE, slang* галава, мазгі ♦ **blow one's wig** шалець

**wigging** [ˈwɪgɪŋ] *n. BrE, infml* лупцоўка, наганяй; строгая вымова; **give smb. a good wigging** добра каму-н. выгаварыць; даць каму-н. наганяй

**wiggle** [ˈwɪgl] *v. infml* **1.** пагойдваць; пагойдвацца; пахіствоць; пахіствацца **2.** круціць; круціцца; віхляцца; *Stop wiggling and sit still!* Перастань віхляцца, сядзі ціха!

**wiggly** [ˈwɪgli] *adj. infml* пакручасты, звілісты, завілісты; **a wiggly line** хвалістая лінія

**wigwam** [ˈwɪgwæm] *n.* **1.** вігвам **2.** хаціна

**wilco** [ˈwɪlkəʊ] (*скар. ад* **will comply**) будзе зроблена

**wild¹** [waɪld] *n.* **: the wild** улонне прыроды; **live in the wild** жыць на волі (*пра жывёл*); **the wilds** нетры, гушчар

**wild²** [waɪld] *adj.* **1.** дзікі; дзікарослы; **wild tribes** дзікія плямёны; **wild flowers** палявыя кветкі **2.** няўробленыя, неапрацаваны; **wild land** аблога, цаліна; **a wild forest** першабытны лес; гушчар **3.** люты, раз'юшаны; **wild with anger** не помнячы сябе ад злосці; **be wild about smth./smb.** моцна захапляцца чым-н./кім-н.; *Don't make me wild.* Не гнявi мяне! **4.** буйны, бурны, нястрымны; **wild applause** бурныя воплескі; **a wild dance** шалёны танец **5.** дзікі, бязглузды; фантастычны; **wild plans** дзівацкія планы **6.** разгульны, разбэшчаны; **lead a wild life** гуляць напрапалую; **a wild party** оргія ♦ **run wild** дзічэць (*пра жывёл*); разрастацца (*пра пустазелле*); расці без нагляду (*пра дзяцей*)

**wild apple** [ˌwaɪldˈæpl] *n.* яблыня-дзічка

**wild camomile** [ˌwaɪldˈkæməmaɪl] *n. bot.* дзі́кі або́ ле́кавы рамо́нак

**wildcat** [ˈwaɪldkæt] *adj.* **1.** рызыко́ўны; незако́нны, недазво́лены; **a wildcat strike** нелега́льная забасто́ўка (*без дазволу прафсаюза*) **2.** фантасты́чны; **wildcat schemes** дзіва́цкія, няздзе́йсныя пла́ны

**wilderness** [ˈwɪldənəs] *n.* пусты́ня; дзі́кая мясцо́васць; глуш; **a voice in the wilderness** *bibl.* крык адзіно́кага ў пустыні

**wildfire** [ˈwaɪldfaɪə] *n.* пажа́р; вялі́кае по́лымя ♦ **spread like wildfire** ≅ распаўсю́джвацца з ху́ткасцю мала́нкі

**wildfowl** [ˈwaɪldfaʊl] *n. pl.* дзі́кія пту́шкі

**wild flower** [ˈwaɪldˌflaʊə] *n.* палява́я або́ лясна́я кве́тка

**wild goose chase** [ˌwaɪldˈguːsˌtʃeɪs] *n.* ма́рнае імкне́нне (*да чаго-н.*); паго́ня за недасяга́льным; хіме́ра

**wildlife** [ˈwaɪldlaɪf] *n.* жыва́я прыро́да (*лес, поле, акіян і іх насельнікі*); **the conservation of wildlife** ахо́ва прыро́ды; **a wildlife sanctuary** запаве́днік, зака́знік

**wild rose** [ˌwaɪldˈrəʊz] *n. bot.* шыпшы́на

**wild strawberry** [ˌwaɪldˈstrɔːbəri] *n. bot.* я́гада суні́ц (*лясных*)

**Wild West** [ˌwaɪldˈwest] *n.* **: the Wild West** Дзі́кі За́хад; **films about the Wild West** каўбо́йскія фі́льмы, ве́стэрны

**wiles** [waɪlz] *n. pl.* хі́трыкі, выкрута́сы, вы́круты; **the wiles of the devil** д’я́бальскае кава́рства

**wilful** [ˈwɪlfəl] *adj.* **1.** абду́маны, свядо́мы; наўмы́сны; **a wilful murder** наўмы́снае забо́йства **2.** нараві́сты, капры́зны, нату́рысты; **a wilful child** капры́знае дзіцё

**will**[1] [wɪl] *n.* **1.** во́ля, сі́ла во́лі; **show great strength of will** паказа́ць вялі́кую сі́лу во́лі; **lack of will** бязво́лле; **by force of will** сі́лаю во́лі **2.** жада́нне, наме́р; **a will to live** во́ля да жыцця́ **3**. завяшча́нне; **one’s last will and testament** апо́шняя во́ля (*юрыдычная формула ў завяшчанні*); **make one’s will** рабі́ць завяшча́нне ♦ **at will** калі́ захо́чаш; дастатко́ва, уво́лю; **at one’s own sweet will** калі́ ўзду́маецца; **of one’s own free will** па до́брай во́лі; **against one’s will** су́праць во́лі; **where there’s a will there’s a way** дзе хаце́нне, там уме́нне

**will**[2] [wɪl] *v.* **(would) 1.** (*дапаможны дзеясл. для ўтварэння буд. ч.*); *He will come.* Ён прыйдзе. **2.** (*мадальны дзеяслоў*) 1) (*азначае просьбу*); *Will you open the window?* Калі ласка, адчыніце акно. 2) (*азначае жаданне*); *Do as you will.* Рабіце, як хочаце. ♦ **if you will** з ва́шага дазво́лу; **come what will** няха́й бу́дзе, што бу́дзе; што бу́дзе, то́е бу́дзе

**will**[3] [wɪl] *v. fml* **1.** жада́ць; піка́зваць во́лю, жада́нне; *He who wills success is halfway to it.* Воля да перамогі – залог поспеху; *God has willed it so.* На тое была воля Бога. **2.** *fml* **(to)** завяшча́ць

**willful** [ˈwɪlfəl] *AmE* = **wilful**

**willies** [ˈwɪliz] *n. pl. infml* **the willies** перапало́х; нерво́выя дры́жыкі; *The news gave me the willies.* У мяне рукі і ногі затрэсліся ад навіны.

**willing** [ˈwɪlɪŋ] *adj.* **1.** гато́вы; зго́дны; **be willing** быць зго́дным (*зрабіць што-н.*); **willing or not** хо́чаш не хо́чаш **2.** добраахво́тны, дабраво́льны; **willing obedience** свядо́мая дысцыплі́на **3.** стара́нны; **lend a willing hand** пада́ць руку́ дапамо́гі ♦ **a willing horse** руплі́вы працаўні́к

**willingly** [ˈwɪlɪŋli] *adv.* ахво́тна, з жада́ннем

**willingness** [ˈwɪlɪŋnəs] *n.* гато́ўнасць; **show willingness to please** паказа́ць гато́ўнасць дагадзі́ць

**will-o’-the-wisp** [ˌwɪləðəˈwɪsp] *n.* **1.** блука́ючы аге́ньчык **2.** ненадзе́йны чалаве́к; недасяга́льная мэ́та

**willow** [ˈwɪləʊ] *n.* **1.** вярба́; **a wheeping willow** ні́цая вярба́ **2.** бі́та (*у крыкеце*); **wield the willow** ігра́ць у крыке́т

**willowy** [ˈwɪləʊi] *adj.* гну́ткі, то́нкі; *She has a willowy figure.* ≅ Яна стройная як бярозка.

**will power** [ˈwɪlpaʊə] *n.* сі́ла во́лі

**willy** [ˈwɪli] *n. infml* пе́ніс (*дзіцячы*)

**willy-nilly** [ˌwɪliˈnɪli] *adv. infml* **1.** хо́чаш не хо́чаш, во́ляй-нядво́ляй; хо́цькі-няхо́цькі; *They all had to take part, willy-nilly.* Яны ўсе былі вымушаны ўдзельнічаць, хочучы таго ці не. **2.** абы-я́к, у беспара́дку

**wilt** [wɪlt] *v.* **1.** вя́нуць, ні́кнуць; *The plants were wilted by the heat.* Расліны завялі ад спякоты. **2.** занепада́ць ду́хам; *Why are you wilting?* Чаго ты павесіў нос?

**wily** [ˈwaɪli] *adj.* хі́тры, кава́рны; **as wily as a fox** хі́тры як лісá; **a wily old bird** *infml* хітрэ́ц, хітру́н; хітру́ха

**wimp** [wɪmp] *n. infml, derog.* ба́ба (*пра мужчыну*); размазня́, хлю́пік

**win** [wɪn] *v.* **(won) 1.** перамага́ць, выйграва́ць; **win a war** вы́йграць вайну́; **win a contest** перамагчы́ ў спабо́рніцтве; **win a prize** атрыма́ць прыз; **win at cards** вы́йграць у ка́рты; **win hands down** *infml* атрыма́ць лёгкую перамо́гу; **win a championship** *sport* заваява́ць першынство́; **win on points** *sport* вы́йграць па ачка́х; **win four goals to nil** *sport* вы́йграць з лі́кам 4:0 **2.** заслу́жваць; дабіва́цца; **win**

**respect** заваява́ць пава́гу; **win compassion** вы́клікаць спачува́нне ♦ **win free** вы́брацца з ця́жкага стано́вішча; **win one's spurs** *fml* дасягну́ць сла́вы; **win or lose** ≅ ці пан, ці прапа́ў; ці паска́чаш, ці папла́чаш

**win away** [ˌwɪnəˈweɪ] *phr.v.* **1.** адня́ць, адбі́ць **2.** вы́рвацца, адбі́цца

**win back** [ˌwɪnˈbæk] *phr.v.* адваява́ць, адыгра́ць; **win some money back** адыгра́ць крыху́ гро́шай; **win back a territory** адбі́ць тэрыто́рыю

**win out** [ˌwɪnˈaʊt] *phr.v. infml* прабіва́цца; пераадо́льваць; **win out to recovery** вы́здаравець пасля́ ця́жкай хваро́бы

**win over** [ˌwɪnˈəʊvə] *phr.v.* схілі́ць (*каго-н.*) на свой бок, пераканá́ць

**win round** [ˌwɪnˈraʊnd] *phr. v.* = **win over**

**win through** [ˌwɪnˈθruː] *phr.v. infml* = **win out**

**wince** [wɪns] *v.* **1. (at)** мо́ршчыць; мо́ршчыцца (*ад болю*); **wince at a remark** памо́ршчыцца ад заўва́гі **2.** уздры́гваць, здрыга́цца (*ад перапалоху, жаху і да т.п.*)

**winch**[1] [wɪntʃ] *n. tech.* лябёдка; калаўро́т; матаві́ла

**winch**[2] [wɪntʃ] *v. tech.* паднiма́ць з дапамо́гаю лябёдкі

**wind**[1] [wɪnd] *n.* **1.** ве́цер; **a gust of wind** пары́ў ве́тру; **a high/strong wind** мо́цны ве́цер; **a fair/favourable wind** спадаро́жны ве́цер; **an adverse/contrary/head/foul wind** сустрэ́чны ве́цер; **before/down/ with the wind** са спадаро́жным ве́трам; **up/into/on the wind** су́праць ве́тру; **in the eye/teeth of the wind** пра́ма су́праць ве́тру; *The wind falls/rises.* Вецер сціхае/узмацняецца. **2.** дыха́нне; **lose one's wind** запы́хацца, засапці́ся; **recover one's wind** адды́хацца **3.** пах; слых; намёк; *What's in the wind?* Што адбываецца? **4.** пусты́я сло́вы, балбатня́; *Their promises are but wind.* Іх абяцанні – пустыя словы. **5.** *med.* (кішэ́чныя) га́зы; метэары́зм **6. the winds** *mus.* духавы́я інструме́нты ♦ **get/catch wind of smth.** *infml* праню́хаць што-н., пачу́ць што-н. носам; **cast/fling/throw smth. to the wind** адкі́нуць што-н.; **talk/preach to the wind(s)** кіда́ць сло́вы на ве́цер; **gone with the wind** які́ прапа́ў бясслé́дна; то́е, што засталó́ся ў міну́лым; **get/have the wind up** перапало́хацца; **put the wind up smb.** напужа́ць каго́-н.; **find out which way the wind blows** паглядзе́ць, куды́ ве́цер дзьме; **catch the wind in a net** ≅ лаві́ць ве́цер у по́лі; чэ́рпаць ваду́ рэ́шатам; **like the wind** ху́тка як ве́цер; **to sow the wind and to reap the whirlwind** пасе́еш ве́цер – пажне́ш бу́ру

**wind**[2] [waɪnd] *v.* **(wound) 1.** ві́цца (*пра дарогу, раку*) **2.** мата́ць, намо́тваць; **wind yarn** мата́ць пра́жу; **wind in the line** змата́ць ву́дачку; **wind a baby in a shawl** заху́таць дзіця́ ў ху́стку **3.** абвіва́ць; абдыма́ць; *She wound the child in her arms.* Яна моцна абняла дзіця. **4.** заво́дзіць (*гадзіннік*); адця́гваць (*струны*) ♦ **wind smb. around one's (little) finger** *infml* ≅ віць вяро́ўкі з каго́-н.

**wind back** [ˌwaɪndˈbæk] *phr.v.* перамата́ць наза́д

**wind down** [ˌwaɪndˈdaʊn] *phr.v.* **1.** спыня́цца (*пра гадзіннік*) **2.** расслабля́цца

**wind forward** [ˌwaɪndˈfɔːwəd] *phr.v.* перамата́ць упе́рад

**wind up** [ˌwaɪndˈʌp] *phr.v.* **1.** зако́нчыць, завяршы́ць (*справу*) **2.** *infml* напру́жваць, узбуджа́ць, узру́шваць; *Are you winding me up to a fury?* Ты што! Хочаш давесці мяне да шаленства?

**windbag** [ˈwɪndbæg] *n.* **1.** *infml, derog.* пустазво́н, пустаме́ля **2.** *pl.* **windbags** мяхі́ (*валынкі, аргана*)

**windbreak** [ˈwɪndbreɪk] *n.* ахо́ўная лесапаласа́, сцяна́, агаро́джа (*ад ветру*)

**windbreaker** [ˈwɪndbreɪkə] *n. AmE* вятро́ўка, ветранепраніка́льная ку́ртка

**winder** [ˈwaɪndə] *n.* завадна́я гало́ўка гадзі́нніка; ключ (*ад гадзінніка, завадной цацкі і да т.п.*)

**windfall** [ˈwɪndfɔːl] *n.* **1.** апа́дак **2.** нечака́ная ўда́ча; усме́шка шча́сця; спа́дчына, што з не́ба звалі́лася

**windflower** [ˈwɪndˌflaʊə] *n. bot.* кураслé́п, анемо́на

**wind instrument** [ˈwɪndˌɪnstrəmənt] *n. mus.* духавы́ інструме́нт

**winding** [ˈwaɪndɪŋ] *n.* **1.** паваро́т, вы́гін; зві́ліна, заві́ліна **2.** намо́тка, перамо́тка; **in winding** скру́чаны; **out of winding** раскру́чаны

**windlass** [ˈwɪndləs] *n. tech.* лябёдка, калаўро́т

**windless** [ˈwɪndləs] *adj.* бязве́траны; **a windless day** ці́хі дзень

**windmill** [ˈwɪndmɪl] *n.* ветраны́ млын; вятра́к ♦ **tilt at/fight windmills** змага́цца з ветраны́мі млына́мі, быць донкіхо́там; **have windmills in one's hand** быць фантазё́рам

**window** [ˈwɪndəʊ] *n.* **1.** акно́; **a window display** вітры́на; **a French window** шкляны́я дзве́ры (*на веранду*); **window shutters** акані́цы **2.** акно́, аке́нца (*частка экрана дысплея ў камп'ютары*) ♦ **fly/go out of the window** *infml* зні́кнуць, змата́цца

**window bar** [ˈwɪndəʊˌbɑː] *n.* шпінгале́т, за́шчапка

**window box** [ˈwɪndəʊˌbɒks] *n.* скры́нка для кве́так (*за акном*)
**window dressing** [ˈwɪndəʊˌdresɪŋ] *n.* **1.** афармле́нне, упрыго́жванне вітры́н **2.** перабо́льшванне; ашука́нства; *It's all window dressing.* Гэта ўсё паказуха.
**window frame** [ˈwɪndəʊˌfreɪm] *n.* ако́нная ра́ма
**window ledge** [ˈwɪndəʊˌledʒ] *n.* падако́ннік (*звонку*)
**windowpane** [ˈwɪndəʊpeɪn] *n.* шы́ба, шы́біна
**window-shopping** [ˈwɪndəʊˌʃɒpɪŋ] *n.* **: go window-shopping** разгляда́ць вітры́ны кра́маў
**window sill** [ˈwɪndəʊsɪl] *n.* падако́ннік
**windpipe** [ˈwɪndpaɪp] *n. anat.* ды́хальнае го́рла, трахе́я
**windproof** [ˈwɪndpruːf] *adj.* ветранепраніка́льны; **a windproof suit** ахо́ўны касцю́м
**windrow** [ˈwɪndrəʊ] *n.* вало́к ско́шанай травы
**windscreen** [ˈwɪndskriːn] *n.* ветраво́е шкло
**windscreen wiper** [ˈwɪndskriːnˌwaɪpə] *n.* ачышча́льнік ветраво́га шкла, «дво́рнік»
**windshield** [ˈwɪndʃiːld] *n. AmE* = **windscreen**
**windstorm** [ˈwɪndstɔːm] *n.* віхо́р; віху́ра
**windsurfer** [ˈwɪndsɜːfə] *n.* **1.** па́рус (*для віндсерфінга*) **2.** чалаве́к, які́ займа́ецца віндсе́рфінгам
**windsurfing** [ˈwɪndsɜːfɪŋ] *n. sport* віндсе́рфінг; па́русны спорт
**windswept** [ˈwɪndswept] *adj.* незакры́ты ад ве́тру; **windswept hair** валасы́, які́я раскудла́чыліся ад ве́тру
**wind-up** [ˈwaɪndʌp] *n. infml* страх, нерво́вае ўзрушэ́нне
**windward** [ˈwɪndwəd] *adj., adv.* накірава́ны су́праць ве́тру; **sail to windward** плы́сці пад ве́цер
**windy** [ˈwɪndi] *adj.* **1.** ве́траны (*дзень, надвор'е і да т.п.*); **a windy plain** раўні́на, яку́ю прадзіма́е ве́цер **2.** *infml, dated* баязлі́вы; напу́жаны; *She is a bit windy about staying alone in the house.* Яна крыху пабойваецца заставацца адна дома. ♦ **Windy City** *AmE* «Го́рад ветро́ў» (*Чыкага*); **keep on the windy side of the law** трыма́цца дале́й ад палі́цыі, улады і да т.п.
**wine**[1] [waɪn] *n.* **1.** віно́; **green/new wine** маладо́е віно́; **thin wine** ке́пскае віно́; **Adam's wine** *joc.* вада́ **2.** налі́ўка, насто́йка; **made wine** дама́шняя насто́йка **3.** цёмна-чырво́ны ко́лер, ба́рва, бардо́ ♦ **good wine needs no ivy bush** ≅ до́брамy тава́ру не патрэ́бна рэкла́ма; **take wine with smb.** выпіва́ць за чыё-н. здаро́ўе; чо́кацца з кім-н.
**wine**[2] [waɪn] *v.* **:** ♦ **wine and dine** пачастава́ць (*каго-н.*) на сла́ву, як ма́е быць
**wine bar** [ˈwaɪnˌbɑː] *n.* бар
**wine cellar** [ˈwaɪnˌselə] *n.* ві́нны склеп
**winery** [ˈwaɪnəri] *n.* вінаро́бны заво́д
**wine glass** [ˈwaɪnglɑːs] *n.* ча́рка; ке́ліх, фужэ́р; бака́л
**wine press** [ˈwaɪnˌpres] *n.* даві́льны прэс для вінагра́ду, даві́льня
**wing**[1] [wɪŋ] *n.* **1.** крыло́ (*самалёта, птушкі, млына і да т.п.*) **2.** флі́гель, крыло́ (*дома*) **3.** *mil.* фланг **4.** групо́ўка, крыло́; **the radical wing of the Labour Party** радыка́льнае крыло́ лейбары́сцкай па́ртыі **5.** *pl.* **the wings** кулі́сы (*у тэатры*) **6.** *sport* фо́рвард; **a left wing** ле́вы напада́ючы ♦ **(wait) in the wings** чака́ць за кулі́самі вы́хаду на сцэ́ну; чака́ць зру́чнага мо́манту; **be on the wing** лята́ць; быць у палёце; **take wing** адлята́ць; **under smb.'s wing** пад чыёй-н. апе́кай
**wing**[2] [wɪŋ] *v.* **1.** ляце́ць; рассяка́ць паве́тра; ляце́ць на самалёце; *A bird wings the sky.* Птушка лятае ў паднябессі. **2.** ра́ніць у крыло́ або́ ў руку́; **wing a bird** падстрэ́ліць пту́шку ♦ **wing it** *infml* імправізава́ць
**wingchair** [ˈwɪŋˌtʃeə] *n.* крэ́сла, фатэ́ль з падгало́ўнікам
**wing commander** [ˈwɪŋkəˌmɑːndə] *n.* падпалко́ўнік авія́цыі (*у Вялікабрытаніі*)
**winger** [ˈwɪŋə] *n. sport* напада́ючы; **a right winger** пра́вы напада́ючы
**wingless** [ˈwɪŋləs] *adj.* бяскры́лы (*асабліва пра насякомых*)
**wingspan** [ˈwɪŋspæn] *n.* разма́х кры́лаў; **a bird with a two-foot wingspan** пту́шка з разма́хам кры́лаў у 2 фу́ты
**wink**[1] [wɪŋk] *n.* **1.** міргáнне; **give a wink** падміргну́ць; **without a wink** і во́кам не міргну́ўшы **2.** міг; **in a wink** мі́гам, у адзі́н мо́мант, у адно́ імгне́нне ♦ **have/take forty winks** крыху́ паспа́ць, падрама́ць; **not a wink** ні кро́плі; **not get/have a wink of sleep, not sleep a wink** не звёсці во́чы
**wink**[2] [wɪŋk] *v.* **1.** мірга́ць, марга́ць, мо́ргаць; перамі́ргвацца; **wink at smb.** падмі́ргваць каму́-н. **2.** міга́ць, мігаце́ць, мігце́ць; **wink at smth.** глядзе́ць на што-н. скрозь па́льцы
**winkle out** [ˌwɪŋklˈaʊt] *phr.v. infml* выця́гваць, выціска́ць (*што-н. з каго-н.*); *At last I winkled out the truth out of him.* Нарэшце я дамогся ад яго праўды.
**winner** [ˈwɪnə] *n.* перамо́жца, пе́ршы прызёр; лаўрэа́т (*конкурсу, спаборніцтва і да т.п.*)
**winnings** [ˈwɪnɪŋz] *n. pl.* выйгрыш; вы́йгрышныя гро́шы
**winnow**[1] [ˈwɪnəʊ] *n.* ве́ялка, а́рфа

**winnow²** [ˈwɪnəʊ] *v.* арфава́ць, ве́яць (*зерне*); прасява́ць, прасе́йваць; **winnow truth from falsehood** аддзяля́ць пра́ўду ад няпра́ўды

**winnower** [ˈwɪnəʊə] *n.* а́рфа

**winnowing machine** [ ˈwɪnəʊɪŋməˌʃiːn] *n.* = **winnower**

**winsome** [ˈwɪnsəm] *adj. fml* пры́емны, прыва́бны; абая́льны

**winter¹** [ˈwɪntə] *n.* зіма́; **in winter** зімо́ю, узі́мку; **last/next winter** ле́ташняй/насту́пнай зімо́ю; **a green winter** бяссне́жная зіма́; **in the dead of winter** глыбо́каю зімо́ю

**winter²** [ˈwɪntə] *v.* зімава́ць, право́дзіць зіму́; **the birds wintering in the south** пту́шкі, які́я зіму́юць на по́ўдні

**winter cherry** [ˌwɪntəˈtʃeri] *n. bot.* фіза́ліс

**winter crop** [ˌwɪntəˈkrɒp] *n.* азі́міна, азі́мая культу́ра

**winter-hardy** [ˈwɪntəˌhɑːdi] *adj.* зімасто́йкі, марозаўсто́йлівы (*пра расліны*)

**winterize,** *BrE* **-ise** [ˈwɪntəraɪz] *v.* уцяпля́ць, падрыхто́ўваць да зімы́ (*дом, машыну і да т.п.*)

**wintertime** [ˈwɪntətaɪm] *n.* зімо́вы час, зі́мняя пара́; **in wintertime** зімо́ю, у зі́мні час

**wintry** [ˈwɪntri] *adj.* **1.** зі́мні; хало́дны; маро́зны **2.** няве́тлівы; **a wintry smile** няве́тлівая ўсме́шка; **a wintry welcome** хало́дны прыём

**wipe¹** [waɪp] *n.* выцíра́нне; **give smth. a wipe** вы́церці што-н.

**wipe²** [waɪp] *v.* выціра́ць, сціра́ць; **wipe one's eyes** выціра́ць слёзы; **wipe smth. clean/dry** выціра́ць што-н. на́суха ♦ **wipe the floor with smb.** *infml* ≅ сце́рці каго́-н. у парашо́к, збіць на го́ркі я́блык; **wipe off the face of the earth** сце́рці з тва́ру зямлі́; **wipe the slate clean** пача́ць усё спача́тку; забы́ць пра было́е

**wipe away** [ˌwaɪpˈəweɪ] *phr.v.* сціра́ць, выціра́ць

**wipe down** [ˌwaɪpˈdaʊn] *phr.v.* змыва́ць

**wipe out** [ˌwaɪpˈaʊt] *phr.v.* **1.** выціра́ць **2.** змыва́ць (*абразу*) **3.** знішча́ць

**wipe up** [ˌwaɪpˈʌp] *phr.v.* **1.** падціра́ць **2.** выціра́ць (*посуд*)

**wiper** [ˈwaɪpə] *n.* = **windscreen wiper**

**wire¹** [ˈwaɪə] *n.* **1.** дрот; про́вад; **elastic wire** спружы́на з дро́ту **2.** *infml* тэлегра́ма ♦ **a live wire** жва́вы чалаве́к; **be on wires** быць як на іго́лках/на шы́ле/на цвіка́х/на шпі́льках; **get one's wires crossed** *infml* пераблы́таць, няпра́вільна зразуме́ць

**wire²** [ˈwaɪə] *v.* **1.** звя́зваць дро́там **2.** рабі́ць электраправо́дку; **wire a house for electricity** праве́сці ў дом электры́чнасць **3.** *infml* тэлеграфава́ць, пасыла́ць тэлегра́фам (*грошы*)

**wire-cutters** [ˈwaɪəˌkʌtəz] *n. pl. tech.* куса́чкі

**wire-dancer** [ˈwaɪəˌdɑːnsə] *n.* эквілібры́ст на дро́це; канатахо́дзец

**wired television** [ˌwaɪədˈtelɪvɪʒn] *n.* ка́бельнае тэлеба́чанне

**wire-haired** [ˌwaɪəˈheəd] *adj.* з шо́рсткай по́ўсцю або́ во́ўнаю

**wireless** [ˈwaɪələs] *n. dated* ра́дыё; **a broadcast by wireless** перада́ча па ра́дыё

**wire netting** [ˌwaɪəˈnetɪŋ] *n.* драцяна́я се́тка

**wiretapping** [ˈwaɪəˌtæpɪŋ] *n.* перахва́т тэлефо́нных паведамле́нняў; праслухо́ўванне тэлефо́нных размо́ў

**wiry** [ˈwaɪəri] *adj.* **1.** гну́ткі і мо́цны як дрот; **wiry hair** валасы́ як (кру́чаны) дрот **2.** вынослівы; цягаві́ты; жы́лісты

**wisdom** [ˈwɪzdəm] *n.* **1.** му́драсць, прамудрасць; **the Book of Wisdom** *bibl.* Кні́га прамудрасці Саламо́на; *Years bring wisdom.* Мудрасць прыходзіць з гадамі. **2.** *fml* разва́жнасць; здаро́вы сэнс ♦ **no wisdom like silence** ≅ маўча́нне як зо́лата

**wisdom tooth** [ˈwɪzdəmˌtuːθ] *n.* зуб му́драсці

**wise** [waɪz] *adj.* му́дры, разва́жны; разу́мны; **the Three Wise Men** *bibl.* вешчуны́; **grow wiser** паразумне́ць ♦ **be wise after the event** па ча́се ро́зум мае; ро́зум прыхо́дзіць па шко́дзе; **be/ get wise to smb./smth.** *infml* даве́дацца пра каго́-н/што-н.; **put smb. wise to smth.** *infml* растлума́чыць што-н. каму́-н.; **(as) wise as an owl** му́дры як сава́

**wisecrack** [ˈwaɪzkræk] *n. infml* жарт, до́сціп; шпі́лька, саркасты́чная заўва́га

**wise guy** [ˈwaɪzˌgaɪ] *n. infml, derog.* усёве́д, усёзна́йка; разу́мнік

**wisely** [ˈwaɪzli] *adv.* му́дра, разва́жна, разу́мна

**wiseman** [ˈwaɪzmən] *n.* (*pl.* **-men**) **1.** мудрэ́ц **2.** знаха́р; маг; астро́лаг

**wise up** [ˌwaɪzˈʌp] *phr.v. infml* **(to)** зразуме́ць, сця́міць (*што-н.*)

**wisewoman** [ˈwaɪzˌwʊmən] *n.* (*pl.* **-women**) **1.** знаха́рка **2.** варажбі́тка,варо́жка; ба́бка-павіту́ха

**wish¹** [wɪʃ] *n.* **1.** жада́нне; пажада́нне; **with best wishes for a happy New Year** з найле́пшымі пажада́ннямі на Но́вы год; *Give her my best wishes.* Перадай ёй мае найлепшыя пажаданні. **2.** во́ля, зага́д; **disobey smb.'s wishes** пайсці́ су́праць чыёй-н. во́лі; **do smth. at smb.'s wish** рабі́ць што-н. паво́дле зага́ду; выко́нваць чый-н. зага́д ♦ **the wish is father to the thought** лю́дзі ахво́тна ве́раць таму́, чаму́ хо́чуць ве́рыць; **your wish is my command** *fml or joc.* тваё сло́ва – зако́н для мяне́

**wish²** [wɪʃ] *v.* **1. (for)** жада́ць, хаце́ць; *I wish I were dead.* Проста жыць не хочацца. **2.** шкадава́ць; *I wish you had told me about it.* Шкада, што ты не сказаў мне пра гэта. **3.** зы́чыць; **wish smb. a happy birthday** віншава́ць каго́-н. з днём нараджэ́ння; **(just) as you wish** як хо́чаш; **wish smb. well/ill** жада́ць каму́-н. дабра́/лі́ха

**wishful** [ˈwɪʃfəl] *adj. fml* жада́ны; *It's only wishful thinking.* Гэта ўсяго толькі падман, бо так хочацца.

**wishy-washy** [ˈwɪʃiˌwɒʃi] *adj. infml, derog.* **1.** ва́дкі, сла́бы, вадзяні́сты (*пра напой*) **2.** сла́бы, нерашу́чы; **a wishy-washy liberal** нерашу́чы ліберáл

**wisp** [wɪsp] *n.* **1.** жмуто́к; пучо́к; **a wisp of hair** пасма́чка валасоў **2.** не́шта кво́лае; **a wisp of a girl** то́ненькае дзяўчо́; не дзяўчо́, а сало́мінка

**wispy** [ˈwɪspi] *adj.* **1.** то́нкі як ды́мка; **wispy clouds** лёгкія абло́кі **2.** рэ́дкі (*пра валасы*)

**wisteria** [wɪˈstɪəriə] *n. bot.* гліцы́нія

**wistful** [ˈwɪstfəl] *adj.* **1.** задуме́нны (*выгляд*) **2.** су́мны, смутны, тужлі́вы, журбо́тны (*погляд, усмешка і да т.п.*)

**wistfully** [ˈwɪstfəli] *adv.* задуме́нна; су́мна; журбо́тна

**wit** [wɪt] *n.* **1.** ро́зум; **quick wit** ке́млівасць; **wit and wisdom** ро́зум і му́драсць; **dull wit** ту́пасць **2.** дасці́пнасць ♦ **be at one's wits' end** быць збянтэ́жаным, быць у тупіку́; **collect/gather one's wits** супако́йвацца; **be scared/frightened/terrified out of one's wits** напужа́цца да сме́рці; **live by/on one's wits** выкру́чвацца; **be out of one's wits** стра́ціць ро́зум, звар'яце́ць, з'е́хаць з глу́зду

**witch** [wɪtʃ] *n.* **1.** ве́дзьма, вядзьма́рка; **an old witch** стара́я карга́ **2.** чараўні́ца, чарадзе́йка; знаха́рка

**witchcraft** [ˈwɪtʃkrɑːft] *n.* вядзьма́рства; ча́ры, чараўні́цтва; чо́рная ма́гія

**witchdoctor** [ˈwɪtʃˌdɒktə] *n.* знаха́р, шапту́н; чараўні́к

**witch-hunt** [ˈwɪtʃhʌnt] *n.* адшу́кванне і цкава́нне асо́баў, які́я звя́заны з нячы́стаю сі́лаю; «палява́нне на ве́дзьмаў», пасле́даванне іншаду́мцаў

**with** [wɪð] *prep.* **1.** з/са; ра́зам з; сяро́д; **work with smb.** працава́ць з кім-н.; **go with the times** не адстава́ць ад ча́су; **in company with** ра́зам з; **with each other** адзі́н з адны́м; **stay with one's parents** жыць у бацько́ў **2.** (*перадаецца тв. скл.*) за; на; **cut with a knife** рэ́заць нажо́м; **see smth. with one's own eyes** ба́чыць на свае́ во́чы; **buy smth. with money** купі́ць што-н. за свае́ гро́шы; **decorated with flowers** упрыго́жаны кве́ткамі; **covered with snow** пакры́ты сне́гам **3.** (*паказвае наяўнасць чаго-н.*) у, пры, з (сабо́ю); *He had no money with him.* У яго з сабою не было грошай. **4.** (*паказвае на прычыну*) з, ад; **shiver with cold** дрыжа́ць ад хо́ладу **5.** (*паказвае на месца*) у; *Leave the key with the neighbour.* Пакінь ключ у суседа. **6.** (*паказвае адносіны да чаго-н./каго-н.*); **be angry with smb.** злава́цца на каго́-н. **7.** нягле́дзячы на; *With all his faults we liked him.* Нягледзячы на ўсе яго недахопы, мы любілі яго. ♦ **be with smb.** *infml* **:** *I'm afraid I'm not quite with you.* Баюся, што не разумею цябе.

**withdraw** [wɪðˈdrɔː] *v.* **(withdrew, withdrawn) 1.** прыма́ць, здыма́ць; адклíка́ць; **withdraw one's eyes** адво́дзіць по́гляд **2.** *fml* забіра́ць наза́д, адмаўля́цца; **withdraw one's promise** адмаўля́цца ад свайго́ абяца́ння; **withdraw a motion** зняць прапано́ву **3.** адасабля́цца, адступа́ць (*пра войска*); **withdraw from action** выхо́дзіць з бо́ю

**withdrawal** [wɪðˈdrɔːəl] *n.* **(from) 1.** адмаўле́нне (ад); адступле́нне; вы́хад (*з дагавору, выбараў і да т.п.*) **2.** адвыка́нне (*ад курэння, наркотыкаў і да т.п.*)

**withdrawn¹** [wɪðˈdrɔːn] *p.p.* → **withdraw**

**withdrawn²** [wɪðˈdrɔːn] *adj.* замкнёны, зацу́яты (*пра чалавека*)

**withdrew** [wɪðˈdruː] *past* → **withdraw**

**wither** [ˈwɪðə] *v.* **1.** вя́нуць, со́хнуць; *The flowers withered in the heat.* Кветкі завялі ад спякоты. **2.** зніка́ць, адыхо́дзіць; *Her beauty withered.* Яе прыгажосць знікла. **3.** спапяля́ць (*позіркам*)

**withered** [ˈwɪðəd] *adj.* вы́сахлы, завя́лы; зача́хлы, змарне́лы

**withering** [ˈwɪðərɪŋ] *adj.* пага́рдлівы; злы (*погляд*); **a withering remark** жо́рсткая заўва́га

**withers** [ˈwɪðəz] *n. pl.* загры́вак, ка́рак

**withheld** [wɪðˈheld] *past, p.p.* → **withhold**

**withhold** [wɪðˈhəʊld] *v.* **(withheld)** *fml* **1.** стры́млівацъ; стры́млівацца; **withhold one's consent** не дава́ць зго́ды **2.** утры́млівацъ, затры́млівацъ; **withhold one's information** уто́йвацъ інфарма́цыю

**within¹** [wɪˈðɪn] *adv. fml* **1.** усярэ́дзіне, унутры́; **from within** знутры́ **2.** у душы́, у ду́мках; **keep one's thoughts within** зато́йвацъ свае́ ду́мкі

**within²** [wɪˈðɪn] *prep.* **1.** у ме́жах (*пра час і адлегласць*); *There is a hut within a mile from*

*here.* За мілю адсюль стаіць хатка. **2.** у, па; **live within one's income** жыць па сваіх срóдках; **keep within the law** не выхóдзіць за мéжы закóну **3.** *fml* унутры́; **within the building** унутры́ дóма

**without** [wɪˈðaʊt] *prep.* **1.** без; **without delay/fall** неадклáдна, зáраз жа; абавязкóва; *He left without saying a word.* Ён паехаў, не сказаўшы ні слова; **it goes without saying** самó сабóю зразумéла **2.** *dated* па-за; **without the city walls** па-за сцéнамі гóрада

**withstand** [wɪðˈstænd] *v.* **(withstood)** *fml* вытры́мліваць; устóйваць, супрацьстая́ць; **withstand pressure** вытры́мліваць нáціск; **withstand temptation** не паддавáцца спакýсе

**withstood** [wɪθˈstʊd] *past, p.p.* → **withstand**

**witless** [ˈwɪtləs] *adj.* незразумéлы; бязмóзгі; бязглýзды; **a witless idea** недарэ́чная ідэ́я

**witness¹** [ˈwɪtnəs] *n.* **1.** свéдка; відавóчца; **a witness for the defence/ prosecution** свéдка абарóны/абвінавáчвання **2.** *law* свéдчанне; паказáнне свéдкі; **give witness** свéдчыць **3.** прымéта, дóказ, пацвярджэ́нне ♦ **bear witness to smth.** пацвярджáць што-н.; **call to witness** выклікáць за свéдку

**witness²** [ˈwɪtnəs] *v.* **1.** быць свéдкам, бáчыць на сваé вóчы; **witness the accident** быць свéдкам авáрыі **2.** *law* завярáць (*дакумент, подпіс*) **3.** *law* **(to)** быць дóказам, свéдчыць; **witness to the truth of statement** свéдчыць аб прáвільнасці зая́вы

**witness box** [ˈwɪtnəsˌbɒks] *n. BrE* мéсца для дáчы свéдкамі паказáнняў

**witticism** [ˈwɪtɪsɪzəm] *n.* вóстры жарт, дóсціп, дасці́пны вы́раз

**wittily** [ˈwɪtɪli] *adv*. дасці́пна

**wittiness** [ˈwɪtɪnəs] *n.* дасці́пнасць

**wittingly** [ˈwɪtɪŋli] *adv.* наўмы́сна, наўмы́сля; знарóк, назнарóк

**witty** [ˈwɪti] *adj.* дасці́пны; трáпны; **witty comments** трáпныя каментáрыі

**wives** [waɪvz] *pl.* → **wife**

**wizard** [ˈwɪzəd] *n.* **1.** вядзьмáр, вядзьмáк; маг; чараўні́к; **the Wizard of the North** паўнóчны чарадзéй (*пра Вальтэра Скота*) **2.** чалавéк з выдáтнымі здóльнасцямі, мáйстар; *She's a wizard at playing the violin.* Яна цудоўна іграе на скрыпцы.

**wizardry** [ˈwɪzədri] *n.* вядзьмáрства; мáгія; чарадзéйства

**wk** (*пісьмовае скар. ад* **week**) ты́дзень

**wobble¹** [ˈwɒbl] *n.* хістáнне; віхля́нне

**wobble²** [ˈwɒbl] *v.* хістáць; хістáцца; віхля́цца; вадзі́ць у бакí; **wobble in one's opinion** быць няцвёрдым у сваíх пóглядах; *Her voice wobbled.* Яе голас дрыжаў.

**wobbly** [ˈwɒbli] *adj. infml* хі́сткі; **a wobbly line** крывáя лí́нія; *He is still a bit wobbly after his illness.* Ён усё яшчэ слабы пасля хваробы.

**woe** [wəʊ] *n. fml, dated or hum.* гóра, бядá; смýтак, скрýха; **a tale of woe** сýмнае апавядáнне

**woeful** [ˈwəʊfəl] *adj*. **1.** *lit.* засмýчаны; гарóтны; тужлí́вы; журбóтны; **woeful eyes** сýмныя вóчы **2.** вéльмі кéпскі; (той) якí засмучáе; **a woeful spectacle** жахлí́вае відóвішча

**woke** [wəʊk] *past* → **wake**

**woken** [ˈwəʊkən] *p.p.* → **wake**

**wolf¹** [wʊlf] *n.* (*pl.* **wolves**) воўк; **cry wolf** паднімáць фальшы́вую трывóгу ♦ **keep the wolf from the door** перабівáцца, перакíдвацца; змагáцца з бéднасцю; **a wolf in sheep's clothing** воўк у авéчай шкýры; **a wolf may lose his teeth, but never his nature** воўк кóжны год ліня́е, алé нóраву не мяня́е

**wolf²** [wʊlf] *v. infml* з'ядáць; пажырáць, глытáць éжу прáгна

**wolfhound** [ˈwʊlfhaʊnd] *n.* ваўкадáў

**wolves** [wʊlvz] *n. pl.* → **wolf**

**woman** [ˈwʊmən] *n.* (*pl.* **women**) жанчы́на, кабéта; **a woman friend** сябрóўка; **a woman of fashion** мóдніца; **a woman of quality** знáтная дáма; **a woman of pleasure** жанчы́на лёгкіх павóдзін; **a woman of the house** гаспады́ня; **a woman's wit** жанóчы інсты́нкт; **a woman's reason** *iron.* жанóчая лóгіка; **an old woman** старáя, бабýля

**womanhood** [ˈwʊmənhʊd] *n.* **1.** *fml* жанóчая стáласць; **grow to/reach womanhood** станаві́цца стáлай жанчы́най; сталéць **2.** жанчы́ны

**womanish** [ˈwʊmənɪʃ] *adj.* **1.** жанóчы, уласці́вы жанчы́не **2.** *derog.* жанчынападóбны, бáбскі

**womankind** [ˌwʊmənˈkaɪnd] *n. fml, dated* жанчы́ны, жанóчы пол

**womanly** [ˈwʊmənli] *adj.* жанóчы; жанóцкі; **womanly virtues** жанóчыя дабрадзéйнасці

**womanize,** *BrE* **-ise** [ˈwʊmənaɪz] *v.* распýснічаць

**womanizer,** *BrE* **-iser** [ˈwʊmənaɪzə] *n. derog.* бáбнік

**womb** [wuːm] *n. anat.* мáтка

**women** [ˈwɪmɪn] *n. pl.* → **woman**

**womenfolk** [ˈwɪmɪnfəʊk] *n.* **1.** жанчы́ны, жанóчы пол **2.** жанóчая чáстка сям'í, калекты́ву і да т.п.

**Women's Lib** [ˌwɪmɪnzˈlɪb] *infml* (*скар. ад* **Women's Liberation Movement**) феміні́сцкі рух за раўнапрáўе жанчы́н

**won** [wʌn] *past, p.p.* → **win**

**wonder¹** [ˈwʌndə] *n.* **1.** здзіўлéнне; **look in wonder** глядзéць са здзіўлéннем **2.** цуд, дзíва

♦ **do/work wonders** тварыць/рабіць цуды; **it's a wonder that...** дзіва, што...; **no/little wonder that...** не дзіва/мала дзіва, што; **wonders will never cease** свет поўны цудаў

**wonder**[2] [ˈwʌndə] *v.* **1.** дзівіцца, здзіўляцца, дзіву давацца **2.** хацець ведаць, цікавіцца; *I wonder who he is.* Цікава, хто ён такі; **I shouldn't wonder if...** *infml* не будзе дзіва, калі...; *I wonder!* Не ведаю!; Цікава! (*выражае недавер, сумненне*)

**wonderful** [ˈwʌndəfəl] *adj.* цудоўны, надзвычайны, дзівосны; *How wonderful!* Як цудоўна!

**wonderfully** [ˈwʌndəfəli] *adv. fml* цудоўна; дзівосна, дзіўна

**wonderland** [ˈwʌndəlænd] *n.* краіна цудаў, край дзівосаў

**wonderment** [ˈwʌndəmənt] *n. fml* здзіўленне; *It's a wonderment to me that he is in Spain.* Здзіўляюся, што ён у Іспаніі.

**wondrous** [ˈwʌndrəs] *adj. lit.* цудоўны; дзіўны, дзівосны; **wondrous beauty** дзівосная прыгажосць

**wonky** [ˈwɒŋki] *adj. infml* **1.** кволы, слабы (*пра чалавека*) **2.** ненадзейны, хісткі (*пра рэч*)

**won't** [wəʊnt] *скар. ад* will not

**woo** [wuː] *v.* **1.** дабівацца, дамагацца (*падтрымкі, славы і да т.п.*) **2.** *dated* заляцацца; сватацца

**wood**[1] [wʊd] *n.* **1.** дрэва (*матэрыял*); **a floor made of wood** драўляная падлога **2.** лес, гай; **go for a walk in the wood(s)** хадзіць на шпацыр у лес **3.** дровы; **small wood** галіны, сукі; сухое галлё, вецце ♦ **out of the woods** *infml* па-за небяспекаю; **be unable to see the wood for the trees** *BrE* не бачыць лесу за дрэвамі

**woodblock** [ˈwʊdblɒk] *n.* **1.** калода **2.** гравюра на дрэве

**woodcarving** [ˈwʊdˌkɑːvɪŋ] *n.* разьбярства, разьба па дрэве

**woodbine** [ˈwʊdbaɪn] *n. bot.* бружмель

**woodcock** [ˈwʊdkɒk] *n. zool.* слонка, вальдшнэп

**woodcraft** [ˈwʊdkrɑːft] *n.* **1.** уменне арыентавацца ў лесе **2.** уменне вырабляць рэчы з драўніны

**woodcut** [ˈwʊdkʌt] *n.* гравюра па дрэве, дрэварыт

**woodcutter** [ˈwʊdˌkʌtə] *n.* дрывасек

**wooded** [ˈwʊdɪd] *adj.* лясісты; **a wooded area/park** лесапарк

**wooden** [ˈwʊdn] *adj.* **1.** драўляны; **a wooden fence** плот **2.** нерухомы, застылы; невыразны; **a wooden smile** застылая ўсмешка

**woodland** [ˈwʊdlənd] *n.* лясістая мясцовасць; **woodland scenery** лясны краявід; **a woodland choir** пеўчыя птушкі

**woodlot** [ˈwʊdlɒt] *n.* лясны ўчастак

**woodman** [ˈwʊdmən] *n.* (*pl.* **-men**) **1.** ляснік **2.** дрывасек

**woodpecker** [ˈwʊdˌpekə] *n. zool.* дзяцел

**wood pigeon** [ˈwʊdˌpɪdʒn] *zool.* лясны голуб, дзікі голуб

**woodshed** [ˈwʊdʃed] *n.* дрывотнік, дрывотня, павець для дроў

**woodsman** [ˈwʊdzmən] *n.* = **woodman**

**woodwind** [ˈwʊdwɪnd] *n. mus.* драўляны духавы інструмент

**woodwork** [ˈwʊdwɜːk] *n.* **1.** вырабы з дрэва **2.** сталярка ♦ **come/crawl out of the woodwork** *infml* лезці з усіх шчылін; **disappear/fade into the woodwork** ледзь вынесці ногі; ледзь уцячы

**woodworm** [ˈwʊdwɜːm] *zool.* шашаль

**woody** [ˈwʊdi] *adj.* **1.** лясісты, лясны **2.** дравяністы; **a woody plant** дравяністая расліна **3.** драўляны

**woof** [wuːf] *interj. infml* **: woof! woof!** гаў-гаў!

**wool** [wʊl] *n.* **1.** шэрсць, воўна; руно **2.** шарсцяное валакно; шарсцяная пража; шарсцяныя ніткі; **a ball of wool** клубок воўны **3.** вата; валакно; **willow wool** лыка; **poplar wool** тапаліны пух ♦ **draw/pull the wool over smb.'s eyes** падманваць каго-н., уводзіць каго-н. у зман

**woolen** [ˈwʊlən] *AmE* = **woollen**

**woolens** [ˈwʊlənz] *AmE* = **woollens**

**wool-gathering** [ˈwʊlˌgæðərɪŋ] *adj.* рассеяны, няўважлівы; летуценны; які лунае ў аблоках

**woollen** [ˈwʊlən] *adj.* шарсцяны, ваўняны; **woollen cloth** сукно; **woollen fabric** шарсцяная тканіна

**woollens** [ˈwʊlənz] *n. pl.* ваўняныя вырабы

**woolly**[1] [ˈwʊli] *n.* шарсцяны світар, жакет і да т.п. (*звыч. вязаныя*)

**woolly**[2] [ˈwʊli] *adj.* **1.** шарсцяны; пакрыты шэрсцю; пухнаты; **woolly clouds** пухнатыя аблокі; **a woolly dog** махнаты сабака **2.** няясны, расплывістыя; **woolly ideas** блытаныя думкі

**woolly-headed** [ˌwʊliˈhedɪd] *adj.* **1.** кучаравы **2.** няясны, невыразны; **a woolly-headed man** бесталач; *He's woolly-headed.* У яго галава набіта мякінаю.

**wooly** [ˈwʊli] *AmE* = **woolly**[1]

**woozy** [ˈwuːzi] *adj.* **1.** *infml* адурманены алкаголем або наркотыкамі **2.** які адчувае галавакружэнне, слабасць, млоснасць

**word**[1] [wɜːd] *n.* **1.** слова; **half a word** паўслова; **concluding words** заключныя словы; **have a word (with smb.)** пагаварыць (з кім-н.); *I have no words to express my gratitude.* Мне не

хапае слоў, каб выказаць удзячнасць. **2.** заўва́га, пара́да; **a word of advice** пара́да; **a word in season** своечасо́вая пара́да **3.** ве́стка, навіна́; *Please leave a word for me at the office.* Калі ласка, пакіньце мне запіску ў офісе. **4.** абяца́нне; **give smb. one's word** паабяца́ць; **keep/break one's word** стрыма́ць/не стрыма́ць сло́ва; **a man of his word** чалаве́к сло́ва ♦ **by word of mouth** на сло́вах; **have words (with smb.)** сварь́іцца (з кім-н.); **in a word** адны́м сло́вам; **in other words** другі́мі сло́вамі, іна́кш ка́жучы; **without many words** без лі́шніх слоў; **not a word!** *infml* ні сло́ва!; ні гу-гу!; **in word and deed** на сло́вах і на спра́ве; **beyond words** невымо́ўны; **eat/swallow one's words** браць свае́ сло́вы наза́д; прасіць прабачэ́ння за ска́занае; **fair/good words** камплімéнты; **the last word (in smth.)** апо́шняе дасягне́нне (у чым-н.); **put in a (good) word for smb.** закі́нуць сло́ўца за каго́-н.; **take smb. at his word** паве́рыць каму́-н. на сло́ва; **take smb.'s word for it** лаві́ць каго́-н. на сло́ве; **word for word** сло́ва ў сло́ва; **a word of honour** сло́ва го́нару

**word²** [wɜːd] *v.* выража́ць сло́вамі, падбіра́ць сло́вы; фармулява́ць; *How should it be worded?* Як бы гэта выказаць?

**word-blindness** [ˈwɜːdˌblaɪndnəs] *n. med.* стра́та здо́льнасці чыта́ць, алексі́я

**wordbook** [ˈwɜːdbʊk] *n.* **1.** сло́ўнік; гласа́рый **2.** лібрэ́та (*оперы*) **3.** спе́ўнік

**wordbuilding** [ˈwɜːdˌbɪldɪŋ] *n. ling.* словаўтварэ́нне

**wordclass** [ˈwɜːdklɑːs] *n. ling.* разра́д слоў; часці́на мо́вы

**wording** [ˈwɜːdɪŋ] *n.* фармулёўка; фо́рма выка́звання

**wordless** [ˈwɜːdləs] *adj. fml or lit.* маўклі́вы, бязмо́ўны; **wordless grief** маўклі́вае го́ра; го́ра, яко́е не перада́ць сло́вамі

**Word of God** [ˌwɜːdəvˈgɒd] *n.* **the Word of God** Бі́блія, Сло́ва Бо́жае

**word order** [ˈwɜːdˌɔːdə] *n. ling.* пара́дак слоў

**word-perfect** [ˌwɜːdˈpɜːfɪkt] *adj.* які́ ве́дае на па́мяць; *The actor's speech was word-perfect.* Акцёр ведаў сваю ролю назубок.

**wordplay** [ˈwɜːdpleɪ] *n.* гульня́ слоў, каламбу́р

**word processor** [ˈwɜːdˌprəʊsesə] *n.* прылáда для электро́ннай апрацо́ўкі тэ́ксту; «электро́нны рэда́ктар»

**word stereotype** [ˈwɜːdˌsteriətaɪp] *n.* сло́ўнае клішэ́

**word stress** [ˈwɜːdstres] *n. ling.* сло́ўны на́ціск

**wordy** [ˈwɜːdi] *adj. derog.* шматсло́ўны; **a wordy explanation** шматсло́ўнае тлумачэ́нне

**wore** [wɔː] *past* → **wear²**

**work¹** [wɜːk] *n.* **1.** рабо́та, пра́ца; спра́ва; від дзе́йнасці; **do no work** нічо́га не рабі́ць; *I have work to do.* Я заняты. **2.** ме́сца пра́цы; паса́да, заня́так; **go to/leave for work** ісці́ на пра́цу **3.** твор, вы́нік пра́цы; **bad/faulty work** брак; **a work of genius** генія́льны твор; **collected/complete works** по́ўнае выда́нне тво́раў; **the work of God** *relig., poet.* бо́скае ствар́энне (*пра чалавека*) **4.** дзе́янне, учы́нак; **dirty work** бру́дная спра́ва, ке́пскі ўчы́нак; **works of mercy** дабрачы́ннасць **5.** рукадзе́лле; **fancy work** маста́цкая вы́шыўка; **plain work** шытво́; **crochet work** вяза́нне кручко́м ♦ **all in a/the day's work** гэта́ звыча́йная рэч; гэ́та ўсё нарма́льна; **at work (on)** за пра́цай; **get (down) to/set to work** узя́цца за спра́ву; **make short work of smth.** ху́тка ўпра́віцца з чым-н.; **in work/out of work** мець пра́цу/быць беспрацо́ўным; **put/set smb. to work** прыму́сіць каго́-н. узя́цца за пра́цу

**work²** [wɜːk] *v.* **1.** працава́ць, займа́цца (*чым-н.*); **work like a horse** працава́ць як вол; **work at smth.** займа́цца чым-н.; вывуча́ць што-н. **2.** дзе́йнічаць; *The plan won't work.* План нікуды не варты. **3.** выклікáць, прыно́сіць; **work miracles** рабі́ць цу́ды **4.** прымуша́ць да пра́цы; прыво́дзіць у дзе́янне; *She works herself too hard.* Яна прымушае сябе шмат працаваць. **5.** вышыва́ць, займа́цца рукадзе́ллем ♦ **it won't work!** *infml* ≅ гэ́ты ну́мар не про́йдзе!; **work one's will upon smb.** навя́зваць каму́-н. сваю́ во́лю

**work off** [ˌwɜːkˈɒf] *phr.v.* **1.** пазбáвіцца; **work off one's excess weight** сагна́ць лі́шнюю вагу́ **2.** спагна́ць (за крыўду); **work off one's anger on smb.** спагна́ць злосць на кім-н.

**work out** [ˌwɜːkˈaʊt] *phr.v.* **1.** спрацо́ўваць, быць паспяхо́вым; *How will things work out?* Што з гэтага атрымаецца? **2.** *infml* трэніравá́цца **3.** распрацо́ўваць, выраша́ць (*план, праблему і да т.п.*) **4. (at)** склада́ць; *The total works out at £10.* Сума складае 10 фунтаў.

**work up** [ˌwɜːkˈʌp] *phr.v.* **1**. распрацо́ўваць; паляпша́ць **2.** дамага́цца, заваёўваць; **work up a reputation** заваява́ць рэпута́цыю

**workable** [ˈwɜːkəbl] *adj.* здзяйсня́льны, рэа́льны; **a workable scheme** здзяйсня́льны план

**workaday** [ˈwɜːkədeɪ] *adj.* будзённы, штодзённы; **a workaday life** шэ́рае/ну́днае жыццё; **workaday concerns** штодзённыя кло́паты

**workaholic** [ˌwɜːkəˈhɒlɪk] *n. infml* працаго́лік; рабаця́га; *She is a workaholic.* Яна нічога не бачыць, акрамя працы.
**workbench** [ˈwɜːkbentʃ] *n. tech.* варшта́т
**workbook** [ˈwɜːkbʊk] *n. BrE* збо́рнік практыкава́нняў; вучэ́бны дапамо́жнік
**workday** [ˈwɜːkdeɪ] *n.* рабо́чы дзень, бу́дзень; **on workdays** па бу́днях
**worker** [ˈwɜːkə] *n.* рабо́чы, праца́ўны; **a disabled worker** інвалі́д пра́цы; **a hard worker** працаві́к; працаві́чка; рабаця́га; **a full-time worker** рабо́тнік, заня́ты по́ўны праца́ўны дзень
**wook experience** [ˈwɜːkɪˌkspɪərɪəns] *n.* **1.** во́пыт пра́цы **2.** *BrE* пра́ктыка студэ́нта (*на фірме*)
**workforce** [ˈwɜːkfɔːs] *n.* рабо́чая сі́ла; праца́ўныя рэсу́рсы
**workhand** [ˈwɜːkhænd] *n.* наёмны рабо́чы; па́рабак
**workhouse** [ˈwɜːkhaʊs] *n. hist.* рабо́тны дом (*у Англіі*)
**working** [ˈwɜːkɪŋ] *adj.* рабо́чы, праца́ўны; **working capacity** працаздо́льнасць; **working conditions** умо́вы пра́цы; **working hours** рабо́чы час; **working knowledge** практы́чнае вало́данне (*чым-н.*)
**working capital** [ˌwɜːkɪŋˈkæpɪtl] *n. econ.* абаро́тны капіта́л, абаро́тныя фо́нды
**working class** [ˌwɜːkɪŋˈklɑːs] *n.* **the working class** рабо́чы клас
**working day** [ˌwɜːkɪŋˈdeɪ] *n.* = **workday**
**working efficiency** [ˌwɜːkɪŋɪˈfɪʃənsi] *n. econ.* **1.** прадукцы́йнасць пра́цы **2.** працаздо́льнасць **3.** *tech.* эфекты́ўнасць эксплуата́цыі
**working majority** [ˌwɜːkɪŋməˈdʒɒrəti] *n.* дастатко́вая бо́льшасць галасо́ў (*для прыняцця рашэнняў у парламенце*)
**working man** [ˌwɜːkɪŋˈmæn] *n.* (*pl.* **-men**) рабо́чы (*асабліва ў прамысловасці*)
**working order** [ˌwɜːkɪŋˈɔːdə] *n.* **: in working order** спра́ўны, цэ́лы, прыда́тны для эксплуата́цыі
**working paper** [ˈwɜːkɪŋˌpeɪpə] *n.* **1.** рабо́чы даку́мент **2.** *pl.* **working papers** *AmE* дазво́л на пра́цу для непаўнале́тніх
**working party** [ˈwɜːkɪŋˌpɑːti] *n.* рабо́чая гру́па (*для падрыхтоўкі дакумента, вырашэння праблемы і да т.п.*)
**workman** [ˈwɜːkmən] *n.* (*pl.* **-men**) рабо́чы, праца́ўны (*асабліва кваліфікаваны*) ♦ **a bad workman blames his tools** ≅ ліхо́му танцо́ру і кашу́ля заваджа́е
**workmanlike** [ˈwɜːkmənlaɪk] *adj.* вы́кананы на высо́кім узро́ўні; **do a workmanlike job** вы́канаць рабо́ту кваліфікава́на, адмысло́ва
**workmanship** [ˈwɜːkmənʃɪp] *n.* майстэ́рства, уме́льства; кваліфіка́цыя; **exquisite workmanship** то́нкае майстэ́рства; **a piece of workmanship** адмысло́ва вы́кананы твор
**workmate** [ˈwɜːkmeɪt] *n.* кале́га, супрацо́ўнік
**work of art** [ˌwɜːkəvˈɑːt] *n.* твор маста́цтва
**workout** [ˈwɜːkaʊt] *n. sport* трэніро́ўка; размі́нка
**workplace** [ˈwɜːkpleɪs] *n.* працо́ўнае ме́сца; памяшка́нне для пра́цы
**workroom** [ˈwɜːkrʊm] *n.* памяшка́нне для пра́цы; майстэ́рня (*фатографа, мастака і да т.п.*)
**works** [wɜːks] *n.* заво́д, фа́брыка; **a works canteen** завадска́я стало́ўка
**worksheet** [ˈwɜːkʃiːt] *n.* **1.** лісто́к улі́ку пра́цы **2.** пісьмо́вае зада́нне (*школьнае*)
**workshop** [ˈwɜːkʃɒp] *n.* **1.** майстэ́рня; цэх **2.** семіна́р, сімпо́зіум; **a seminar-cum-workshop** семіна́р-пра́ктыкум
**work-shy** [ˈwɜːkʃaɪ] *adj. BrE, derog.* ляні́вы; які́ ўхіля́ецца ад пра́цы
**world** [wɜːld] *n.* **1**. свет, сусве́т; зямля́, зямны́ шар; **all over the world/the world over** ва ўсім све́це; **a world history** сусве́тная гісто́рыя; **a journey round the world** кругасве́тнае падаро́жжа; **the Old World** Стары́ Свет; **the New World** Но́вы Свет **2.** свет, ца́рства; **the animal world** жывёльнае ца́рства; **the literary world** літарату́рныя ко́лы **3.** жыццё (*чалавека*); **begin the world anew** пача́ць но́вае жыццё **4.** грама́дства; **the great world, the world of fashion** вышэ́йшыя ко́лы; **the world of art** артысты́чны свет ♦ **be all the world to smb.** быць ве́льмі зна́чным і дарагі́м для каго́-н; **be dead to the world** ніч́óга не заўважа́ць, не рэагава́ць; **come into the world** нарадзі́цца, з'яві́цца на свет; **take the world as it is** успрыма́ць жыццё такі́м, яко́е яно́ ёсць; **come up/rise/make one's way in the world** зрабі́ць кар'е́ру; **know/see the world** мець во́пыт, ве́даць жыццё; **make the best of both worlds** мець то́е і друго́е (*не трэба выбіраць*); **a man/woman of the world** асо́ба, яка́я ве́дае свет; **not for all the world** ні за што на све́це; ні за які́я гро́шы; **out of this world** *infml* надзвыча́йны, дзіво́сны, цудо́ўны; **a world of troubles** бе́зліч кло́патаў; **the world is his oyster** пе́рад ім адчы́нены ўсе дзве́ры; **it's a small world** які́ малы́ свет; **who in the world is he?** хто б гэ́та мог быць?; **feel on top of the world** быць на вышыні́ шча́сця; **how is the world with you?** як ма́ешся?
**world-beater** [ˈwɜːldˌbiːtə] *n.* **1.** чэмпіён све́ту **2.** арты́ст, музыка́нт і да т.п. сусве́тнага значэ́ння

**world-class** [ˌwɜːldˈklɑːs] *adj.* сусвéтнага клáса; **world-class drugs** лéкі, прызнáныя ва ўсім свéце

**world-famous** [ˌwɜːldˈfeɪməs] *adj.* сусвéтна вядóмы

**worldly** [ˈwɜːldli] *adj.* **1.** зямны́; людскí; **worldly pleasures** зямны́я рáдасці **2.** вóпытны; дасвéдчаны, спрактыкавáны; **worldly wisdom** жыццёвая мýдрасць

**worldly-wise** [ˌwɜːldliˈwaɪz] *adj.* навýчаны жыццём; які́ мáе жыццёвую мýдрасць

**world power** [ˌwɜːldˈpaʊə] *n.* сусвéтная дзяржáва

**world view** [ˌwɜːldˈvjuː] *n.* светапóгляд

**world war** [ˌwɜːldˈwɔː] *n.* сусвéтная вайнá; **the First World War** Пéршая сусвéтная вайнá

**world-weary** [ˌwɜːldˈwɪəri] *adj. fml* стóмлены (*асабліва ад забаў*); які́ стрáціў цікáвасць да жыццЯ́

**worldwide** [ˌwɜːldˈwaɪd] *adj.* сусвéтны; **a worldwide market** сусвéтны ры́нак; **the Worldwide Web** сусвéтнае сéціва

**worm¹** [wɜːm] *n.* **1.** чарвя́к **2.** рабáк, глíст **3.** нікчэ́мны чалавéк ♦ **the worm will turn** усЯ́каму цярпéнню ёсць канéц

**worm²** [wɜːm] *v.* **1.** паўзцí; **worm one's way** прапаўзцí **2.** выпы́тваць, вывéдваць; **worm a secret** вывéдваць тáйну ♦ **worm oneself into smb.'s confidence** уцéрціся ў давéр'е да кагó-н., убíцца ў лáску да кагó-н.

**worm-eaten** [ˈwɜːmˌiːtn] *adj.* стóчаны чарвякáмі

**wormwood** [ˈwɜːmwʊd] *n.* палы́н; **wormwood wine** палынóўка; *The thought was wormwood to him.* Яму было горка ад гэтай думкі.

**wormy** [ˈwɜːmi] *adj.* чарвíвы; **wormy soil** зямля́, пóўная чарвякóў

**worn** [wɔːn] *p.p.* → **wear²**

**worn-out** [ˌwɔːnˈaʊt] *adj.* **1.** зно́шаны; панóшаны, пацёрты; **worn-out carpets** пацёртыя дываны́; **a worn-out joke** неарыгінáльны жарт **2.** стóмлены; змýчаны; змардавáны

**worried** [ˈwʌrid] *adj.* **(about)** заклапóчаны, устрывóжаны, занепакóены, расхвалявáны; *There's no need to look so worried.* Няма чаго турбавацца.

**worrier** [ˈwʌriə] *n.* чалавéк, які хвалю́ецца, пакýтуе ад сумнéнняў, трывóг і да т.п.

**worrisome** [ˈwʌrisəm] *adj.* турбóтны, турбóтлівы

**worry¹** [ˈwʌri] *n.* **1.** хвалявáнне; трывóга; клóпат, турбóта **2.** непрыéмнасці, клóпаты; *What's your worry? infml* Што з вамі? Што вас турбуе?; *That's the least of my worries.* Аб гэтым я найменш турбуюся.

**worry²** [ˈwʌri] *v.* **1. (about/over)** непакóіцца, турбавáцца, хвалявáцца; **worry about nothing** хвалявáцца з-за дрóбязей; *There's nothing to worry about.* Няма чаго турбавацца. **2.** непакóіць, хвалявáць, турбавáць, дакучáць, назаля́ць; *She worried herself sick about her missing son.* Яна вельмі непакоілася за свайго прапаўшага сына. ♦ **worry to death** выклікáць мóцнае хвалявáнне; **not to worry** *infml* нявáжна

**worrying** [ˈwʌriiŋ] *adj.* **1.** надакýчлівы, турбóтны, клóпатны **2.** трывóжны, неспакóйны, хвалю́ючы; *The worrying thing is his health.* Што мяне трывожыць, дык гэта яго здароўе.

**worse¹** [wɜːs] *n.* гóршае; **a change for the worse** перамéна да гóршага; *There's worse to come.* Будзе яшчэ горш. ♦ **go from bad to worse** станавíцца ўсё горшым і горшым; **so much the worse for him** тым горш для ягó; **be worse for smth.** пацярпéць ад чагó-н.; **for better or for worse** што б ні здáрылася

**worse²** [wɜːs] *adj.* (*выш. ст. ад* **bad**) гóршы; **get worse** пагóршыцца ♦ **to make matters/things worse** а што яшчэ́ горш

**worse³** [wɜːs] *adv.* (*выш. ст. ад* **badly**) **1.** горш; *The patient has been taken worse.* Хвораму стала горш. **2.** больш, мацнéй; *It's raining worse than ever.* Дождж усё мацнее. ♦ **be worse off** пагаршáцца; *She is worse off than before.* Ёй стала горш, чым было раней.

**worsen** [ˈwɜːsn] *n.* пагаршáць; пагаршáцца; **a steadily worsening economic situation** эканóміка, якáя ўвесь час пагаршáецца

**worship¹** [ˈwɜːʃɪp] *n.* **1.** богаслужэ́нне; веравызнáнне; **forms of worship** рэлігíйныя абрáды, рытуáлы; **freedom of worship** свабóда веравызнáння; **a place of worship** храм **2.** пакланéнне; шанавáнне; **Your Worship** *BrE, fml* Вáша мíласць (*зварот да суддзі, мэра*)

**worship²** [ˈwɜːʃɪp] *v.* **1.** малíцца; хадзíць у царквý **2.** пакланя́цца; гóрача любíць, абагаўля́ць; **worship God** пакланя́цца Бóгу

**worshipful** [ˈwɜːʃɪpfəl] *adj.* **1.** які́ пакланя́ецца, гóрача лю́біць, абагаўля́е **2.** *fml* шанóўны, паважáны; **Right Worshipful** высокашанóўны, высокапаважáны

**worshiper** [ˈwɜːʃɪpə] *AmE* = **worshipper**

**worshipper** [ˈwɜːʃɪpə] *n.* **1.** паклóннік; паклóнніца **2.** вéрнік; вéрніца; прыхаджáнін; прыхаджáнка

**worst¹** [wɜːst] *n.* сáмае кéпскае, сáмае гóршае; найгóршае ♦ **at (the) worst** у найгóршым вы́падку; **do your worst!** рабí што хóчаш, я цябé не баю́ся!; **if the worst comes to the worst**

калі́ зда́рыцца найго́ршае; **get the worst of it** пацярпе́ць сакруша́льнае паражэ́нне; **make the worst of smth.** глядзе́ць на што-н. песімісты́чна

**worst²** [wɜːst] *adj*. (*найвыш. ст. ад* **bad**) найго́ршы, са́мы ке́пскі ♦ **one's own worst enemy** сам сабе́ во́раг

**worst³** [wɜːst] *adv*. (*найвыш. ст. ад* **badly**) **1.** го́рш за ўсё **2. : the worst educated** найме́нш адука-ва́ныя; **worst of all** горш за ўсё

**worst⁴** [wɜːst] *v. fml or dated* перамага́ць, разбіва́ць (*каго-н.*); **be worsted** пацярпе́ць паражэ́нне

**worsted** [ˈwʊstɪd] *n*. **1.** грабе́нная ні́тка **2.** ткані́на з грабе́ннай во́ўны; камво́льная ткані́на

**worth¹** [wɜːθ] *n*. **1.** цана́, кошт; **ten pounds' worth** ко́штам дзе́сяць фу́нтаў **2.** ва́ртасць, кашто́ўнасць; **items of great worth** ве́льмі кашто́ўныя рэ́чы; **be of no worth** не мець ні́якай ва́ртасці; **a man of worth** паважа́ны чалаве́к

**worth²** [wɜːθ] *adj*. **1.** ва́рты, які́ мае ва́ртасць або́ кошт; *What is it worth?* Колькі гэта каштуе?; *What is the dollar worth?* Які цяпер курс долара? **2.** ва́рты (*чаго-н.*), які́ заслуго́ўвае (*чаго-н.*); **be worth attention** заслуго́ўваць ува́гі; *The book is worth reading.* Кнігу варта пачытаць; *It is worth while reading the book.* Варта пачытаць гэтую кнігу. ♦ **for all one is worth** *infml* што ёсць мо́цы, сі́лы; **not worth a damn/a straw/a red cent** *infml* ніку́ды не ва́рты, нікчэ́мны, гро́ша ло́score манага не ва́рты; **be worth one's salt** до́бра працава́ць; **be worth one's /its weight in gold** цані́цца на вагу́ зо́лата; **worth smb.'s while** варты затра́чанага ча́су, намага́нняў і да т.п.; *I'll make it worth your while.* Вы аб гэтым не пашкадуеце.

**worthless** [ˈwɜːθləs] *adj*. нічо́га не ва́рты; бязва́ртасны; нікчэ́мны; **worthless excuses** пусты́я адгаво́ркі

**worthwhile** [ˌwɜːθˈwaɪl] *adj*. ва́рты; слу́шны; **be worthwhile** мець сэнс; *It's worthwhile taking the trouble.* Варта ўзяць на сябе клопат.

**worthy** [ˈwɜːði] *adj*. **1.** ва́рты, дасто́йны; *He's worthy of praise.* Ён заслугоўвае пахвалы. **2.** паважа́ны, го́дны **3.** адпаве́дны, нале́жны; **words worthy of the occasion** сло́вы якра́з для гэ́тага вы́падку

**would** [wʊd, wəd] *v. past* → **will 1.** *дапаможны дзеясл. для ўтварэння*: 1) *будучага ў прошлым*; *He said he would come.* Ён сказаў, што прыйдзе. 2) *умоўнага ладу*; *If he knew he would be glad.* Калі б ён ведаў, ён быў бы рады. **2.** *мадальны дзеясл., які выражае*: 1) *волю, жаданне, схільнасць*; *I would not do it for anything.* Я б ні ў якім разе гэтага не зрабіў. 2) *просьбу, запрашэнне, прапанову; Would you mind repeating it?* Вам не цяжка гэта паўтарыць? 3) *перавагу; I'd rather stay at home.* Я лепей застануся дома. 4) *меркаванне, сумненне*; *That would be she!* Гэта, мусіць, яна! 5) *звыклае дзеянне*; *She would get up very early.* Яна, як правіла, уставала рана.

**would-be** [ˈwʊdbi] *adj*. які́ ма́ецца быць, патэнцыя́льны; з прэтэ́нзіяй; *He's a would-be doctor.* Ён маецца быць доктарам.

**wouldn't** [ˈwʊdnt] *скар. ад* would not

**wound¹** [wuːnd] *n*. **1.** ра́на; ране́нне; **a knife wound** нажава́я ра́на; **a green wound** све́жая ра́на; **bandage a wound** перавязა́ць ра́ну **2. (to)** кры́ўда, абра́за; душэ́ўны боль; *It was a wound to his pride.* Гэта закранула яго пачуццё годнасці. ♦ **rub salt into the wound** сы́паць соль на ра́ну

**wound²** [wuːnd] *v*. **1.** ра́ніць; **wounded in the head** ра́нены ў галаву́ **2.** абража́ць, кры́ўдзіць; **wound smb.'s feelings** абража́ць чые́-н. пачу́цці

**wound³** [ˈwaʊnd] *past, p.p.* → **wind²**

**wounded** [ˈwuːndɪd] *adj*. **1.** (па)ра́нены; **the wounded** (па)ра́неныя **2.** знява́жаны (*пра пачуццё, гонар і да т.п.*)

**wound-up** [ˌwaʊndˈʌp] *adj*. заве́дзены (*пра гадзіннік*); расхваля́ваны; *I was too wound-up to sleep.* Я занадта хваляваўся, каб спаць.

**wove** [wəʊv] *past* → **weave**

**woven** [ˈwəʊvn] *p.p.* → **weave**

**wow¹** [waʊ] *n. infml* шу́мны по́спех; **go with a wow** мець шу́мны по́спех (*пра п'есу, фільм і да т.п.*)

**wow²** [waʊ] *v. infml* рабі́ць ура́жанне, прыво́дзіць у захапле́нне

**wow³** [waʊ] *interj. infml* (*выражае вялікае здзіўленне, захапленне*) здо́рава; ой; ваў

**WP** [ˌdʌbljuːˈpiː] (*скар. ад* **word processor**) «электро́нны рэда́ктар»

**wpm** [ˌdʌbljuːpiːˈem] (*скар. ад* **words per minute**): **60 wpm** 60 слоў у хвілі́ну

**wraith** [reɪθ] *n*. здань, дух

**wrangle¹** [ˈræŋgl] *n*. **(about/over)** шу́мная спрэ́чка; сва́рка; *They are involved in a legal wrangle.* У іх судовая справа.

**wrangle²** [ˈræŋgl] *v*. **(about/over)** спрача́цца, свары́цца; *The children were wrangling over the new toy.* Дзеці сварыліся з-за новай цацкі.

**wrap¹** [ræp] *n*. **1.** плед; ху́стка; шаль; накі́дка **2.** *AmE* стры́манасць, сакрэ́тнасць ♦ **under**

**wraps** *infml* сакрэ́тны; схава́ны; **take off wraps** рассакрэ́чваць

**wrap²** [ræp] *v.* **1.** абго́ртваць, заго́ртваць **2.** захіна́ць; **wrap a scarf round one's neck** замата́ць шы́ю ша́лікам **3.** ахіна́ць; ахо́пліваць; **an affair wrapped in mystery** спра́ва, аго́рнутая таямні́цай; **wrapped in flames** ахо́плены по́лымем

**wrap up** [ˌræpˈʌp] *phr.v.* **1.** абго́ртваць, заго́ртваць, захіна́ць; захý́твацца **2.** *infml* зака́нчваць, заверша́ць, падсумо́ўваць (*справу*) **3.** быць ца́лкам захо́пленым (*чым-н.*) ♦ **be wrapped up in work** з галаво́ю акуну́цца ў пра́цу

**wrapper** [ˈræpə] *n.* **1.** абго́ртка; **a postal wrapper** бандэро́ль **2.** чахо́л (*ад пылу*) **3.** *AmE* жано́чы хала́т, пеньюа́р

**wrapping paper** [ˈræpɪŋˌpeɪpə] *n.* абго́ртачная папе́ра

**wrath** [rɒθ] *n. dated or fml* гнеў, лю́тасць; **the wrath of God** Бо́жы гнеў; **the day of wrath** *relig.* дзень Стра́шнага Суда́

**wrathful** [ˈrɒθfəl] *adj. infml* гне́ўны, раззлава́ны

**wreak** [riːk] *v.* **(wreaked** *or* **wrought)** *fml* выліва́ць (*гнеў*), дава́ць во́лю (*пачуццю*); **wreak vengeance on smb.** по́мсціць каму-н.; **wreak havoc with smth.** знішча́ць што-н.

**wreath** [riːθ] *n.* **1.** вяно́к; гірля́нда; **a laurel wreath** лаўро́вы вяно́к **2.** *lit.* клуб; ко́льца; **wreaths of smoke** ко́льцы ды́му

**wreathe** [riːð] *v.* **1.** пле́сці (*вянок*) **2. (in/with)** абвіва́ць; абвіва́цца; *Her face was wreathed in smiles.* Яе твар расплыўся ва ўсмешцы. **3.** клубі́цца, ві́цца (*пра дым, пыл*)

**wreck¹** [rek] *n.* **1.** крушэ́нне, ава́рыя; **wrecks of a ship** абло́мкі карабля́ **2.** *infml* разва́ліна; *He's a nervous wreck.* У яго нервовы зрыў.

**wreck²** [rek] *v.* **1.** выкліка́ць ава́рыю, катастро́фу, гі́бель (*самалёта, карабля і да т.п.*) **2.** псава́ць, разбура́ць; **wreck smb.'s nerves** псава́ць чые́-н. не́рвы; **wreck smb.'s plans** зрыва́ць чые́-н. пла́ны

**wreckage** [ˈrekɪdʒ] *n.* абло́мкі, аста́ткі крушэ́ння; ава́рыя, крушэ́нне

**wrecker** [ˈrekə] *n.* **1.** выратава́льнік **2.** *AmE* выратава́льнае су́дна

**wren** [ren] *n. zool.* каралёк, юро́к (*птушка*)

**wrench¹** [rentʃ] *n.* **1.** ту́занне; вы́віх, звіх; **give smth. a wrench** (і)рвану́ць што-н.; **give one's ankle a wrench** звіхну́ць нагу́ **2.** боль, туга́; **the wrench of saying goodbye** го́рыч разлу́кі **3.** *tech.* га́ечны ключ

**wrench²** [rentʃ] *v.* **(off, away) 1.** зрыва́ць; вырыва́ць; **wrench the door open** узлама́ць дзве́ры **2.** *med.* вывіха́ць (*нагу, руку і да т.п.*)

**wrest** [rest] *v.* **1.** вырыва́ць (*сілаю*); *He wrested the door open.* Ён узламаў дзверы. **2.** дамага́цца; вырыва́ць (*згоду*); **wrest a confession** дамага́цца прызна́ння

**wrestle** [ˈresl] *v.* **1.** барука́цца, ду́жацца; *sport* баро́цца **2.** змага́цца (*з чым-н.*); бі́цца (*над чым-н.*); **wrestle with a subject** лама́ць галаву́ над які́м-н прадме́там

**wrestler** [ˈreslə] *n. sport* барэ́ц

**wrestling** [ˈreslɪŋ] *n. sport* барацьба́; **free-style wrestling** во́льная барацьба́; **Greco-Roman wrestling** грэ́ка-ры́мская барацьба́

**wretch** [retʃ] *n.* **1.** гаро́тнік, няшча́сны чалаве́к; **a poor wretch** бедала́га **2.** *joc.* нягóднік, сараматні́к

**wretched** [ˈretʃɪd] *adj.* **1.** ва́рты жа́лю, гаро́тны, убо́гі, няшча́сны; **feel wretched** адчува́ць сябе́ няшча́сным **2.** нікчэ́мны, ніку́ды не ва́рты; дрэ́нны, ке́пскі, благі́; **wretched conditions** ке́пскія ўмо́вы; **wretched weather** мярзо́тнае надво́р'е; **a wretched toothache** мо́цны зубны́ боль **3.** *infml* злашча́сны, пракля́ты; *Where's that wretched pen?* Куды згінула праклятая ручка?

**wriggle¹** [ˈrɪgl] *n.* вы́гін

**wriggle²** [ˈrɪgl] *v.* **1.** выгіна́цца, выкру́чвацца; **wriggle the tail** віля́ць хвасто́м **2.** уві́льваць, ухіля́цца; **wriggle out of a difficulty** вы́путацца з ця́жкай сітуа́цыі

**wring** [rɪŋ] *v.* **(wrung) 1.** скру́чваць, выкру́чваць **2.** адціска́ць, выціска́ць ♦ **wring one's hands** зало́мваць ру́кі; **wring smb.'s neck** *infml* скруці́ць каму́-н. шы́ю; **wring smb.'s hand** мо́цна паціска́ць каму́-н. руку́; **wring smth. out of from smb.** дамага́цца чаго́-н. ад каго́-н. (*прызнання, абяцання і да т.п.*)

**wringer** [ˈrɪŋgə] *n.* машы́на для адціска́ння бялі́зны ♦ **go through the wringer** прайсці́ праз выпрабава́нні; **put smb. through the wringer** выціска́ць усе́ со́кі (*з каго-н.*)

**wringing-wet** [ˌrɪŋɪŋˈwet] *adj.* мо́кры хоць выкру́чвай (*пра адзенне*)

**wrinkle¹** [ˈrɪŋkl] *n.* **1.** маршчы́на, змо́ршчына **2.** скла́дка (*на вопратцы*); **remove the wrinkles in a dress** разгла́джваць скла́дкі на суке́нцы; *The skirt fits without a wrinkle.* Спадніца сядзіць як улітая.

**wrinkle²** [ˈrɪŋkl] *v.* **1.** мо́ршчыць; мо́ршчыцца; **wrinkle one's nose** мо́ршчыць нос **2.** мяць; мя́цца; каме́чыць; каме́чыцца; **wrinkle a skirt** памя́ць спадні́цу

**wrinkled** [ˈrɪŋkld] *adj.* **1.** маршчы́ністы, змо́ршчаны **2.** пакаме́чаны, у скла́дках

**wrist** [rɪst] *n.* **1.** запя́сце **2.** манжэ́та, абшла́г (*рукава*)
**wristband** [ˈrɪstbænd] *n.* **1.** манжэ́та *(на адзенні)* **2.** бранзале́т **3.** *pl.* **wristbands** нару́чнікі
**wristwatch** [ˈrɪstwɒtʃ] *n.* ручны́ гадзі́ннік
**writ** [rɪt] *n. law* **1.** прадпіса́нне, зага́д **2.** по́зва, паве́стка; і́скавая зая́ва **3.** *relig.* піса́нне; **Holy/ Sacred Writ** Бі́блія, Свяшчэ́ннае піса́нне
**write** [raɪt] *v.* **(wrote, written) 1.** піса́ць; **write large/small** піса́ць вялі́кімі/малы́мі лі́тарамі; **write in ink/pencil** піса́ць чарні́лам/алоўкам; **write with a pen** піса́ць ру́чкаю; **write a good hand** мець до́бры по́чырк; **write from dictation** піса́ць пад дыкто́ўку; **write shorthand** стэнаграфава́ць **2.** выдумля́ць, піса́ць; **write in/for papers** быць журналі́стам; **write for a living** зарабля́ць на жыццё літарату́рнай пра́цай **3.** выража́ць, пака́зваць (*пачуцці*); *Fear is written on her face.* У яе на твары страх.
**write away** [ˌraɪtəˈweɪ] *phr.v.* пасыла́ць зака́з, выпі́сваць (*што-н.*)
**write back** [ˌraɪtˈbæk] *phr.v.* адпі́сваць (*ліст*)
**write down** [ˌraɪtˈdaʊn] *phr.v.* запі́сваць, рэгістрава́ць
**write in** [ˌraɪtˈɪn] *phr.v.* **1.** упі́сваць, устаўля́ць (*слова*), запаўня́ць (*анкету, бланк і да т.п.*) **2.** *AmE* падава́ць нача́льству зая́ву, хада́йніцтва і да т.п.
**write out** [ˌraɪtˈaʊt] *phr.v.* выпі́сваць (*чэк, рэцэпт і да т.п.*)
**write up** [ˌraɪtˈʌp] *phr.v.* **1.** падрабя́зна апі́сваць **2.** рэкламава́ць, высо́ка ацэ́ньва́ць; **write up a film** напіса́ць рэцэ́нзію на фільм
**write-off** [ˈraɪtɒf] *n. infml* непатрэ́бная маёмасць; брак; спі́саная рэч
**writer** [ˈraɪtə] *n.* пісьме́ннік; пісьме́нніца; а́ўтар; **a writer's block** перы́яд тво́рчага засто́ю
**write-up** [ˈraɪtʌp] *n.* хвале́бны арты́кул; до́брая рэцэ́нзія; **get a good write-up** атрыма́ць до́брую рэцэ́нзію
**writhe** [raɪð] *v.* **1.** ку́рчыцца; **writhe in pain** ку́рчыцца ад бо́лю **2.** *fml* **(with)** му́чыцца, паку́таваць (*ад сораму, знявагі і да т.п.*)
**writing** [ˈraɪtɪŋ] *n.* **1.** пісьмо́; напіса́нне; **in writing** у пісьмо́вай фо́рме; **earn from writing** зарабля́ць гро́шы літарату́рнай пра́цай **2.** стыль, мане́ра пісьма́ **3.** по́чырк **4.** літарату́рны твор; **the writings of Byron** тво́ры Ба́йрана; **the sacred/holy writings** *relig.* Свяшчэ́ннае піса́нне
**writing-desk** [ˈraɪtɪŋˌdesk] *n.* пісьмо́вы стол; па́рта
**writing-pad** [ˈraɪtɪŋˌpæd] *n.* блакно́т
**writing-paper** [ˈraɪtɪŋˌpeɪpə] *n.* пі́счая папе́ра
**written**[1] [ˈrɪtn] *adj.* пі́саны, напі́саны; **a written test** пісьмо́вы тэст
**written**[2] [ˈrɪtn] *p.p.* → **write**
**wrong**[1] [rɒŋ] *n.* **1.** зло; **do smb. (a) wrong** рабі́ць каму́-н. зло **2.** *fml* несправядлі́васць ♦ **be in the wrong** быць вінава́тым; памыля́цца; **two wrongs don't make a right** зло не папра́віш злом
**wrong**[2] [rɒŋ] *adj.* **1.** памылко́вы, няпра́вільны; не той; **at the wrong time** у непрызна́чаны час; **in the wrong place** не там, дзе трэ́ба; **laugh in the wrong place** засмяя́цца неўпапа́д; *You're wrong.* Вы памыляецеся; *I took the wrong book.* Я ўзяў не тую кніжку; *Sorry, wrong number!* Прабачце, не туды трапіў! **2.** ке́пскі, амара́льны, неэты́чны **3.** нездавальня́ючы; няспра́ўны; *What's wrong*? Што здарылася?; *There's smthing wrong with the car.* У машыне нейкая непаладка. ♦ **get out of bed on the wrong side** уста́ць з ле́вай нагі́; **on the wrong side of forty** за со́рак (гадо́ў); **get off on the wrong foot** няўда́ла пача́ць; **get (hold of) the wrong end of the stick** *infml* няпра́вільна зразуме́ць або́ патлума́чыць; **be in the wrong box** быць у ця́жкім стано́вішчы
**wrong**[3] [rɒŋ] *adv.* няпра́вільна, памылко́ва; **answer wrong** адказа́ць няпра́вільна ♦ **go wrong** ке́пска ісці́ (*пра справы*), ке́пска працава́ць (*пра механізм*); *His watch has gone wrong.* Яго гадзіннік сапсаваўся; **get smb. wrong** *infml* не разуме́ць каго́-н. пра́вільна
**wrongdoer** [ˈrɒŋˌduːə] *n. fml* **1.** правапаруша́льнік, крыўдзі́цель **2.** грэ́шнік; грэ́шніца
**wrongdoing** [ˈrɒŋˌduːɪŋ] *n. fml* **1.** парушэ́нне (*парадку*) **2.** ке́пскі ўчы́нак, праві́ннасць; *Such wrongdoings should be punished.* За такія паводзіны трэба караць.
**wrongful** [ˈrɒŋfəl] *adj.* **1.** няпра́вільны, несправядлі́вы **2.** незако́нны; **wrongful dismissal** незако́ннае звальне́нне
**wrong-headed** [ˌrɒŋˈhedɪd] *adj. fml* **1.** які́ ўпа́рціцца ў памылко́вых по́глядах **2.** няпра́вільны, памылко́вы
**wrongly** [ˈrɒŋli] *adv.* няпра́вільна; **wrongly informed** няправі́льна праінфармава́ны
**wrote** [rəʊt] *past* → **write**
**wrought**[1] [rɔːt] *adj.* **1.** вы́раблены; **wrought by hand** ручно́й рабо́ты **2.** упрыго́жаны, аздо́блены (*вышыўкаю, карункамі і да т.п.*)
**wrought**[2] [rɔːt] *past, p.p. dated* →**work**[2]
**wrought-iron** [ˌrɔːtˈaɪən] *n.* кава́нае жале́за; **a wrought-iron gate** кава́ныя жале́зныя варо́ты

**wrung** [rʌŋ] *past, p.p.*→ **wring**
**wry** [raɪ] *adj.* крывы́, скры́ўлены, скасабо́чаны; **a wry comment** ірані́чная заўва́га; **make/pull a wry face** скрыві́цца ў грыма́се
**wt** (*пісьмовае скар. ад* **weight**) вага́; **net wt 454 gm** чы́стая вага́ 454 гр.
**WTO** [ˌdʌblju:ti::əʊ] (*скар. ад* **World Trade Organization**) Сусве́тная гандлёвая арганіза́цыя
**wunderkind** [ˈwʌndəkɪnd] *n.* (*pl.* **wunderkinder**) вундэркі́нд
**WW I** (*пісьмовае скар. ад* **World War I**) Пе́ршая сусве́тная вайна́
**WW II** (*пісьмовае скар. ад* **World War II**) Друга́я сусве́тная вайна́

## Xx

**X, x** [eks] *n.* **1.** *24-я літара англійскага алфавіта* **2.** *math.* ікс, невядо́мая велічыня́ **3.** не́хта невядо́мы, таямні́чы; **Mr. X** мі́стар Ікс **4.** по́дпіс неадукава́нага **5.** вы́бар або́ адка́з (*на бюлетэні пры анкетаванні*) **6.** фільм, на які́ не дазваля́ецца ісці́ дзе́цям да 16 гадо́ў
**xanthous** [ˈzænθəs] *adj.* **1.** жо́ўты, жаўтава́ты **2.** жаўтаску́ры
**X chromosome** [ˈeksˌkrəʊməsəʊm] *n. biol.* X-храмасо́ма, палава́я храмасо́ма
**xenomania** [ˌzenəˈmeɪniə] *n.* ксенама́нія, ця́га да ўсяго́ заме́жнага
**xenophobia** [ˌzenəˈfəʊbiə] *n.* ксенафо́бія, бо́язь усяго́ заме́жнага
**xerography** [zəˈrɒgrəfi] *n.* размнажэ́нне на ксе́раксе, ксеракапі́раванне
**Xerox**[1] [ˈzɪərɒks] *n.* **1.** ксе́ракс; **make/take a xerox** рабі́ць ксерако́пію **2.** ксерако́пія
**xerox**[2] [ˈzɪərɒks] *v.* зніма́ць ко́пію, ксеракапі́раваць
**XL** [ˌeksˈel] (*скар. ад* **extra large**) ве́льмі вялі́кі (*пра памер*); **an XL shirt** кашу́ля са́мага вялі́кага паме́ру
**Xmas** [ˈkrɪsməs, ˈeksməs] *n. infml* (*скар. ад* **Christmas**) Нараджэ́нне Хрысто́ва; Раства́; Каля́ды
**X-rated** [ˈeksˌreɪtɪd] *adj.* то́лькі для даро́слых; **an X-rated motion picture** кінафі́льм, на які́ дзе́ці да шасна́ццаці гадо́ў не дапуска́юцца
**X-ray**[1] [ˈeksreɪ] *n.* рэнтге́навы праме́нь; **take an X-ray** прасвятля́ць
**X-ray**[2] [ˈeksreɪ] *v.* прасвятля́ць, рабі́ць рэнтге́наўскі зды́мак
**xylography** [zaɪˈlɒgrəfi] *n.* ксілагра́фія
**xylophone** [ˈzaɪləfəʊn] *n. mus.* ксілафо́н

## Yy

**Y, y** [waɪ] *n.* **1.** *25-я літара англійскага алфавіта* **2.** *math.* і́грэк, невядо́мая велічыня́
**yacht** [jɒt] *n.* я́хта
**yachting** [ˈjɒtɪŋ] *n.* **1.** па́русны спорт **2.** пла́ванне на я́хце
**yachtsman** [ˈjɒtsmən] *n.* (*pl.* **-men**) яхтсме́н
**Yahweh** [ˈjɑ:weɪ] *n. relig.* Я́хве
**yak**[1] [jæk] *n. zool.* як
**yak**[2] [jæk] *v. infml.* балбата́ць, лапата́ць
**yam** [jæm] *n. bot.* бата́т, сало́дкая бу́льба
**yank** [jæŋk] *v. infml.* **1.** рваць, вырыва́ць (*рэзка*) **2.** ту́заць; рэ́зка шту́рхаць
**Yankee** [ˈjæŋki] *n. infml* **1.** я́нкі, амерыка́нец **2.** *AmE* жыха́р Но́вай А́нгліі або́ і́ншых паўно́чных шта́таў
**yap**[1] [jæp] *n.* **1.** брэх, га́ўканне, ця́ўканне **2.** *slang* рот
**yap**[2] [jæp] *v.* **(at) 1.** га́ўкаць, браха́ць, ця́ўкаць **2.** *slang* балбата́ць, мало́ць (*языком*)
**yard**[1] [jɑ:d] *n.* **1.** *BrE* панадво́рак; двор **2.** *AmE* парк або́ сад за до́мам
**yard**[2] [jɑ:d] *n.* ярд (*=0,91 м*); **buy cloth by the yard** купля́ць ткані́ну на я́рды ♦ **fight for every yard** змага́цца за ко́жны кава́лачак зямлі́
**yardage** [ˈjɑ:dɪdʒ] *n.* даўжыня́, пло́шча або́ аб'ём у я́рдах
**yarn** [jɑ:n] *n.* **1.** пра́жа; ні́тка **2.** *infml* (до́ўгі) раска́з; вы́думка, анекдо́т; ба́йка; **spin a yarn** раска́зваць ба́йкі, пле́сці небылі́цы
**yawn**[1] [jɔ:n] *n.* пазяха́нне, по́зех; зява́нне
**yawn**[2] [jɔ:n] *v.* **1.** пазяха́ць; зява́ць; **make smb. yawn** наганя́ць на каго́-н. нуду́, сон **2.** зе́ўраць; **a yawning gap** вялі́кая про́рва
**Y chromosome** [ˈwaɪˌkrəʊməsəʊm] *n. biol.* Y-храмасо́ма, палава́я храмасо́ма
**yd** [jɑ:d] (*скар. ад* **yard**) ярд
**ye** [ji:, ji] *pron. dated* вы
**yea** [jeɪ] *n. dated* так, але́, ага́
**yeah** [jeə] *adv. infml* так, ага́; **Oh, yeah?** (*выражае недавер*) Ах так?
**year** [jɪə, jɜ:] *n.* год; **last year** міну́лы год, ле́тась; **next year** нале́та, у насту́пным годзе; **be in one's first/second year** быць на пе́ршым/ другі́м ку́рсе; **all the year round** кру́глы/цэ́лы год ♦ **not/never in a hundred years** нізашто́, ніко́лі; **put years on smb.** ста́рыць каго́-н.; **take years off smb.** маладзі́ць каго́-н.; **year after year/year by year** ко́жны год; **year in, year out** з го́ду ў год
**yearbook** [ˈjɪəbʊk, ˈjɜ:bʊk] *n.* штого́днік, гадаві́к
**year-long** [ˌjɪəˈlɒŋ, ˌjɜ:ˈlɒŋ] *adj.* гадавы́; **a year-long contract** гадавы́ кантра́кт

